# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ Ў ДВУХ ТАМАХ

2-е выданне



ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

ТОМ

1

2-е выданне

# А–К



МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»
2007

УДК 94(476)«12/17»(031)
ББК 63.3(4Бел)я2
В 99

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Мастак З.Э.Герасімовіч

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі Ю.В.Бажэнава, З.Э.Герасімовіча,
В.В.Грынявецкага, А.П.Дрыбаса, А.В.Клешчука, А.М.Кушнярэвіча, М.П.Мельнікава,
С.М.Плыткевіча, Д.М.Раманюка, а таксама геральдычныя матэрыялы А.К.Цітова

В 99 **Вялікае** княства Літоўскае : Энцыклапедыя. У 2 т. Т.1 : Абаленскі—Кадэнцыя / Рэдкал. : Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. З.Э. Герасімовіч. — 2-е выд. — Мінск : БелЭн, 2007. — 688 с. : іл.

ISBN 978-985-11-0393-1.

Энцыклапедыя адлюстроўвае гісторыю і культуру шматнацыянальнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага на працягу ўсяго перыяду яе існавання (13—18 ст.). Акрамя слоўнікавай часткі ў томе змешчаны аглядныя артыкулы, прысвечаныя гісторыі ВКЛ, яго тэрыторыі і адміністрацыйнаму падзелу, дзяржаўнаму і палітычнаму ладу, сімволіцы, дэмаграфіі, народам і мовам, сацыяльнай структуры, сельскай гаспадарцы, рамяству, гандлю, матэрыяльным умовам жыцця, грашоваму абарачэнню, войску, царкве, асвеце, літаратуры, мастацтву, а таксама гістарыяграфіі і крыніцам гісторыі ВКЛ. Энцыклапедыя ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, картамі.

**УДК 94(476)«12/17»(031)**
**ББК 63.3(4Бел)я2**



ISBN 978-985-11-0393-1 (т. 1)
ISBN 978-985-11-0392-4

# ад рэдакцыйнай калегіі

Энцыклапедыя «Вялікае княства Літоўскае» мае на мэце пазнаёміць чытача з гісторыяй і культурай старажытнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы, поўная назва якой была Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. Матэрыял энцыклапедыі ахоплівае гісторыю Вялікага княства Літоўскага ад пачатку 13 ст., калі пачалі прасочвацца першыя тэндэнцыі аб'яднання славянскіх і балцкіх народаў у адзіную дзяржаўную і культурную супольнасць, да канца 18 ст. – часу падзелаў Рэчы Паспалітай. Для Беларусі ВКЛ мае асаблівае значэнне, бо менавіта ў складзе гэтай дзяржавы канчаткова сфарміраваўся беларускі народ.

Выданне адкрываюць уступныя аглядныя артыкулы па гісторыі, дзяржаўным і палітычным ладзе, эканамічным развіцці дзяржавы, яе сацыяльнай структуры, культуры, па гісторыі даследавання ВКЛ. У энцыклапедычных артыкулах па гісторыі ВКЛ асвятляюцца найбольш значныя гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі дзяржавы, і міжнародныя падзеі, што мелі значны ўплыў на становішча ВКЛ, прававыя акты, якія рэгулявалі ўнутранае жыццё ВКЛ, цэнтральныя і мясцовыя органы дзяржаўнай улады, цэнтральныя і мясцовыя адміністрацыйныя пасады (урады). Змешчаны артыкулы пра найбольш значныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі ВКЛ – удзельныя княствы, ваяводствы, паветы, эканоміі, буйнейшыя стараствы і воласці. Вялікая ўвага аддадзена дзяржаўным, палітычным, рэлігійным і культурным дзеячам ВКЛ, найбольш значным прадстаўнікам княжацкіх і шляхецкіх родаў, што вызначыліся ў гісторыі. У энцыклапедыі асвятляецца грашовая і фінансавая палітыка ВКЛ, змешчаны артыкулы пра грашова-лікавыя адзінкі і манеты ВКЛ. Складальнікі энцыклапедыі імкнуліся як мага падрабязней асвятліць культурнае жыццё ВКЛ, таму шмат артыкулаў прысвечана помнікам архітэктуры – замкам, палацам, цэрквам, манастырам, найбольш значным тэатрам, друкарням, рукапісным і друкаваным кнігам, перыядычным выданням. Складальнікі энцыклапедыі імкнуліся даць матэрыял пра найбольш распаўсюджаныя меры, што выкарыстоўваліся ў ВКЛ. У выданні змешчаны артыкулы пра гісторыю Вільні – сталіцы ВКЛ, ваяводскіх і павятовых цэнтраў, іншых значных гарадоў і знакамітых мястэчак ВКЛ, а таксама пра ўсе раённыя цэнтры Рэспублікі Беларусь, нават калі яны да 18 ст. былі звычайнымі вёскамі. Пры напісанні геаграфічных назваў складальнікі энцыклапедыі арыентаваліся на беларускія назвы 16 ст. – часу росквіту беларускай мовы як дзяржаўнай мовы ВКЛ. У энцыклапедыі змешчаны біяграфіі навукоўцаў 19–21 ст., якія зрабілі найбольш важкі ўклад у даследаванне гісторыі і культуры ВКЛ. Усе даты з 1582 прыведзены паводле грыгарыянскага календара (па новым стылі), які адразу пасля ўвядзення быў прыняты ў Рэчы Паспалітай. У асобных выпадках даты дадзены паводле абодвух стыляў (у такіх выпадках новы стыль даецца ў дужках).

Абагульняльнае выданне, прысвечанае ВКЛ, выходзіць у Беларусі ўпершыню. Энцыклапедыя «Вялікае княства Літоўскае» з'яўляецца калектыўнай працай. У яе стварэнні прымаюць удзел вядучыя вучоныя Беларусі – спецыялісты па гісторыі ВКЛ, яе дзяржаўным і сацыяльна-эканамічным ладзе, культуры, а таксама навукоўцы з Літвы, Украіны, Польшчы і Расіі. У энцыклапедыі плануецца змясціць каля 4000 артыкулаў. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, малюнкамі, картамі і планамі. Энцыклапедыя разлічана на спецыялістаў і шырокія чытацкія колы, студэнтаў і выкладчыкаў навучальных устаноў.



## асноўныя скарачэнні

адм. – адміністрацыйны
арт. – артыкул
археагр. – археаграфічны
археал. – археалагічны
асн. – асноўны
б. – былы
бел. – беларускі
б-ка – бібліятэка
в. – вёска (пры назве)
ваяв. – ваяводства (пры назве)
вер. – верасень
ВКЛ – Вялікае княства Літоўскае
вобл. – вобласць (пры назве)
воз. – возера (пры назве)
вол. – воласць (пры назве)
вял. – вялікі
г. – горад (пры назве)
гал. – галоўны
гар. – гарадскі
гіст. – гістарычны
гл. – глядзі
дзярж. – дзяржаўны
д-р – доктар
ж. – жыхар
жн. – жнівень
З – захад
заг. – загадчык
зах. – заходні
ін-т – інстытут
канд. – кандыдат
кастр. – кастрычнік

кн. – князь (пры імю)
крас. – красавік
культ. – культурны
ліп. – ліпень
ліст. – лістапад
літ. – літоўскі, літаратурны
л-ра – літаратура
мяст. – мястэчка (пры назве)
н. – нарадзіўся
навук. – навуковы
найб. – найбольш, найбольшы
нар. – народны
нац. – нацыянальны
пав. – павет (пры назве)
пал. – палова
паліт. – палітычны
паўд. – паўднёвы
паўн. – паўночны
пач. – пачатак
Пд – поўдзень
ПдЗ – паўднёвы захад
ПдУ – паўднёвы ўсход
пл. – плошча
Пн – поўнач
ПнЗ – паўночны захад
ПнУ – паўночны ўсход
польск. – польскі
правасл. – праваслаўны
праф. – прафесар
р. – рака (пры назве)
рас. – расійскі

р-н – раён (пры назве)
рус. – рускі
с. – сяло (пры назве)
с.-г. – сельскагаспадарчы
сав. – савецкі
сак. – сакавік
сац. – сацыяльны
слав. – славянскі
снеж. – снежань
спец. – спецыяльны
ст. – стагоддзе
старaж. – старажытны
студз. – студзень
суд. – судовы
сял. – сялянскі
т.зв. – так званы
тыс. – тысяча
тэр. – тэрыторыя, тэрытарыяльны
У – усход
укр. – украінскі
ун-т – універсітэт
усх. – усходні
феад. – феадальны
царк. – царкоўны
цэнтр. – цэнтральны
чал. – чалавек
чл. – член
чл.-кар. – член-карэспандэнт
чэрв. – чэрвень
эканам. – эканамічны
юрыд. – юрыдычны

**ВКЛ да Люблінскай уніі (з 13 ст. да 1569).** Ядром ВКЛ пры яго ўтварэнні ў сярэдзіне 13 ст. былі бел. землі верхняга і сярэдняга Панямоння і землі па верхнім цячэнні р. Віліі. ВКЛ узнікла ва ўмовах пастаяннай жорсткай барацьбы з крыжацкай агрэсіяй і пад пагрозай мангола-татарскага нашэсця. Утварэнне дзяржавы дало магчымасць народам гэтага рэгіёна адстаяць сваю незалежнасць і стварыла ўмовы для далейшага сац., паліт., эканам. і культ. іх развіцця. Уключэнне бел. земляў у склад новастворанай дзяржавы мела пераважна добраахвотны характар, яно ажыццяўлялася шляхам пагадненняў вял. князёў літоўскіх з феадаламі бел., а потым і ўкр. земляў пры захаванні льгот, прывілеяў і пэўнага самакіравання (паводле прынцыпу «старыны» – «мы старыны не рухаем, а навіны не ўводзім»).

Утварэнне ВКЛ з цэнтрам у Навагародку адносіцца да 1240-х г., калі па запрашэнні мясц. баяр тут стаў княжыць *Міндоўг* [сярэдзіна 1230-х г.–1263]. Амаль няспынная барацьба маладой дзяржавы з кааліцыяй Лівонскага ордэна, Галіцка-Валынскага княства, жамойцкіх, літоўскіх і яцвяжскіх князёў прымусіла Міндоўга пайсці на прымірэнне і саюз з Лівонскім ордэнам. У 1251 князь быў ахрышчаны паводле каталіцкага абраду, а ў 1253 каранаваўся ў Навагародку каралеўскай каронай, прысланай ад імя папы Іна-



Каранацыя Міндоўга. 1253. Гравюра з кнігі Л.Ходзькі «Палонія». 1824.

кенція IV. Дзякуючы каранацыі Міндоўга каралеўскай каронай новая дзяржава была прызнана еўрапейскімі дзяржавамі. У 1254 Міндоўг заключыў мір з галіцка-валынскім кн. Данілам Раманавічам. Сын Міндоўга, *Войшалк*, пастрыгшыся ў манахі, перадаў кн. Раману Данілавічу «Новгородок от Миндовга», а Слонім, Ваўкавыск «и все городы» – «от себе». Другі сын Данілы, Шварн Данілавіч, ажаніўся з дачкою Міндоўга. У 1258 Войшалк пакінуў манастыр і вярнуў княжанне ў Новагародку. Пасля паўстання жамойтаў, куршаў і земгалаў Міндоўг парваў саюз з Лівонскім ордэнам, адрокся ад каталіцызму, ваяваў з крыжакамі, але ў 1263 быў забіты ў выніку змовы літ. феад. знаці на чале з князямі *Даўмонтам* і *Транятам*, апошні стаў княжыць «во всей земле Литовской и Жемойти», аднак у 1264 быў забіты слугамі Міндоўга. Вял. князем стаў Войшалк [1264–67]. Ён, абапіраючыся на бел. баяр і галіцка-валынскіх князёў, заваяваў Нальшчаны, Дзяволтву, аб'яднаў Новагародскую, Пінскую, Полацкую і Віцебскую землі. У 1267 Войшалк перадаў уладу свайму швагру Шварну Данілавічу [1267–70], які, пераадольваючы сепаратызм літ. племянных сіл, працягваў аб'яднаўчы працэс і ўмацаванне дзяржавы. Вял. князь *Трайдзень* [1270–82] вёў барацьбу супраць Нальшчанаў і Галіцка-Валынскага княства, якое імкнулася замацавацца не толькі на Палессі, але і ў Панямонні. У 1274 ён сіламі гарадзенцаў захапіў Дарагічын і знішчыў большую частку яго насельніцтва. У адказ галіцка-валынскі кн. Леў Данілавіч стварыў кааліцыю галіцка-валынскіх, смаленскіх, турава-пінскіх і інш. князёў і разам з татарскім войскам захапіў і разрабаваў Новагародак. У 1277 горад захапілі і разрабавалі татары – саюзнікі Галіцка-Валынскага княства. У адказ Трайдзень разбіў аб'яднанае войска татараў і галіцка-валынскіх князёў каля Гародні. У 1279 літ. войска нанесла паражэнне лівонскім рыцарам, а ў 1281 захапіла г. Герцыке (былую полацкую крэпасць), які Лівонскі ордэн быў вымушаны абмяняць на г. Дынабург. Вял. князь *Віцень* [каля 1295–1316], абапіраючыся на Новагародскае, Гарадзенскае, Полацкае і інш. княствы, умацоўваў дзяржаву. У 1294 ён задушыў паўстанне ў Жамойці, у 1298, выкарыстаўшы супярэчнасць паміж Лівонскім ордэнам і рыжскім арцыбіскупам, заключыў мірны дагавор з Рыгаю. У 1298 і 1305 бел.-літ. войскі адбілі напады крыжакоў на Жамойць, а ў 1314 на крывіцкія землі, дзе ў бітве пад Новагародкам асабліва вызначылася бел. войска пад камандаваннем *Давыда Гарадзенскага*. У 1315 вял. князь са значным войскам уварваўся ў Прусію і ўзяў у аблогу моцны замак Хрыстмемель. У час княжання Віценя да ВКЛ было далучана Полацкае княства (1307).

Значна пашырылася тэр. ВКЛ пры *Гедзіміне* [1316–41], які называў сябе ў граматах вял. князем «літоўцаў і рускіх». У 1320 у склад ВКЛ увайшла Віцебская зямля, у 1320–30-я г. – Берасцейская зямля, Менскае княства і Турава-Пінская зямля. Гедзімін заклю-

Рэшткі замка ў Наваградку. Літаграфія паводле малюнка Н.Орды. Сярэдзіна 19 ст.



# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ў XIII – першай палове XIV ст.

На карце лічбамі пазначаны тэрыторыі і землі:

Балцкія племянныя княствы:

1. Цэкліс
2. Ламата
3. Скалва
4. Уласна Жамойцкая зямля
5. Упіта
6. Каршува
7. Дзяволтва
8. Нальшчаны
9. Самбія
10. Надрува

**ЭТНАПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ на сярэдзіну XIII ст.**

- ◎ **ПОЛАЦК** — Цэнтры зямель Русі ў сярэдзіне XIII ст.
- ⊙ **Віцебск** — Цэнтры ўдзельных княстваў Русі ў сярэдзіне XIII ст.

МЕЖЫ

- зямель Русі ў сярэдзіне XIII ст.
- удзельных княстваў Русі і польскіх княстваў у сярэдзіне XIII ст., балцкіх і фінскіх племянных княжанняў
- валасцей

ТЭРЫТОРЫЯ

- Русі, падуладнай Залатой Ардзе з сярэдзіны XIII ст.
- рускіх княстваў, якія, верагодна, захавалі незалежнасць ад Арды
- Галіцка-Валынскага княства, перыядычна залежнага ад Арды, на сярэдзіну XIII ст.
- Непасрэдныя ўладанні «старэйшай» літоўскай дынастыі –«Літоўская зямля» ў 1219 –1245 гг.
- літоўскіх княстваў, залежных ад «старэйшых» князёў у першай палове XIIIст.
- балцкіх супольнасцяў, незалежных у першай палове XIII ст.
- польскіх княстваў у сярэдзіне XIII ст.
- Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў да 1245 г.
- рускіх княстваў, пра межы і прыналежнасць якіх звестак няма

**ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ ЗМЕНЫ**
ў другой палове XIII – першай палове XIV ст.

МЕЖЫ

- тэрыторыі, непасрэдна падуладнай Міндоўгу каля 1250 г.
- Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), дасягнутыя пры Міндоўгу каля 1260 г. і адноўленыя пры Віценю каля 1310 г.

ТЭРЫТОРЫІ

- захопленыя Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі паміж 1245 і 1282 гг.
- яцвяжскія, захопленыя Галіцка-Валынскім княствам у 1250-я гг.
- часова страчаныя ВКЛ на карысць Лівонскага ордэна ў 1250-я і 1280-я гг.
- часова страчаныя ВКЛ на карысць Галіцка-Валынскага княства ў 1289 г.
- часова належныя да ВКЛ у1281–1313 гг.
- Полацкага княства, незалежнага ад ВКЛ у 1270–90-я гг.
- Сумесныя ўладанні Вялікага Ноўгарада і Маскоўскага княства

МЕЖЫ ТЭРЫТОРЫЙ, далучаных да ВКЛ

- у 1320–30-я гг.
- у 1340-я гг.
- 1340 — Даты далучэння зямель да ВКЛ
- Дзяржаўныя межы на сярэдзіну XIV ст.

- ◉ **ВІЛЬНЯ** — Сталіцы дзяржаў у першай палове XIV ст.
- ○ Слуцк — Іншыя гарады
- **ПОЛЬШЧА** — Назвы дзяржаў і княстваў у сярэдзіне XIV ст.
- *ПАЛЕССЕ* — Назвы гісторыка-геаграфічных абласцей

Назвы этнічных супольнасцяў

- *ЖАМОЙЦЬ* — балцкіх
- *ЛІВЫ* — фіна-угорскіх

ВАЖНЕЙШЫЯ ВАЕННЫЯ ПАДЗЕІ

- 1314 ✕ — Месцы і даты найбольш значных бітваў
- Напрамкі паходаў Галіцка-Валынскага княства супраць Міндоўга ў 1250-я гг.
- Асноўныя напрамкі крыжовых паходаў супраць ВКЛ у канцы XIII – XIV ст.
- Асноўныя напрамкі татарскіх набегаў на ВКЛ у другой палове XIII – пачатку XIV ст.

МАШТАБ 1:5 500 000

Аўтар В.Л.Насевіч

чыў саюз з мазавецкім кн. Вацлавам (1322) і з польскім каралём Уладзіславам I Лакаткам (1325). Выкарыстаўшы супярэчнасці паміж Рыгай і Лівонскім ордэнам, ён нанёс некалькі паражэнняў крыжакам, меў паліт. ўплыў на Кіеў, Пскоў і Ноўгарад. У 1323 перанёс сталіцу ВКЛ у Вільню. Яшчэ пры жыцці Гедзіміна яго сыны атрымалі спадчыну: *Манівід* – Кернаў і Слонім, *Карыят* – частку Панямоння з Новагародкам, *Альгерд*, князь віцебскі, – Крэва і землі па Бярэзіне, *Кейстут* – Трокі, Гарадзенскую і Берасцейскую землі, *Нарымонт* – Пінскую зямлю; Вільню з вобласцю атрымаў малодшы сын *Яўнут*, якому быў завешчаны велікакняжацкі трон і які быў вял. князем у 1341–45. У выніку змовы Альгерда і Кейстута Яўнут быў скінуты. Вял. князем стаў Альгерд [1345–77]. Кейстут уладарыў у зах. частцы ВКЛ (рэзідэнцыя – Трокі) і вёў барацьбу супраць Тэўтонскага ордэна і Польшчы. У час княжання Альгерда ў склад ВКЛ у сярэдзіне 14 ст. ўвайшло Бел. Падняпроўе (Мсціслаў у 1358), у 1355 – Бранскае княства. У 1360–70-я г. ў ВКЛ увайшлі Кіеўская зямля, Мазырская і Брагінская воласці, Чарнігава-Северская, Падольская і Валынская землі. Было падначалена Смаленскае княства. У склад ВКЛ увайшлі таксама жамойцкія землі. Барацьба супраць Тэўтонскага ордэна адбывалася з пераменным поспехам. У 1345–82 бел.-літ. войска зрабіла 30 паходаў на тэр. ордэна і 10 паходаў на Лівонію, што стрымлівала агрэсію крыжакоў, якія неаднаразова даходзілі да Полацка, Новагародка, Гародні, Ліды, Крэва, Берасця, Ваўкавыска, Браслава, Дзісны і інш. гарадоў і замкаў, штурмавалі іх і руйнавалі. Альгерд праводзіў актыўную палітыку на Усходзе, намагаючыся аб'яднаць пад сваёй уладай усе рус. землі. Ён спрабаваў падпарадкаваць сабе Пскоў і Ноўгарад, жыхары Пскова прынялі на княжанне сына Альгерда Андрэя. Альгерд падтрымліваў цвярскіх вял. князёў у іх барацьбе супраць Масквы. У 1368, 1370 і 1372 ён зрабіў 3 паходы на Маскву. Спробы маскоўскіх вял. князёў перашкодзіць аб'яднанню бел. земляў былі сарваны. У 1349–52 і 1350–60-я г. Альгерд таксама вёў барацьбу з Польшчай за Валынь і Падляшша. За час княжання Альгерда тэр. ВКЛ павялічылася ўдвая, амаль усе бел. землі былі ўключаны ў склад дзяржавы.




Пячатка князя Кейстута.

Пасля смерці Альгерда абвастрыўся канфлікт паміж Кейстутам і сынам Альгерда *Ягайлам*, які стаў вял. князем літоўскім [1377–92]. Гэта выкарысталі крыжакі, каб распаліць міжусобную вайну ў ВКЛ. Ягайла заключыў тайныя дагаворы з Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі і паабяцаў не дапамагаць Кейстуту, калі крыжакі нападуць на яго землі. Кейстут у адказ у 1381 пазбавіў Ягайлу вярх. улады, пакінуўшы яму толькі ўдзельнае княства ў Крэве. У 1382 крыжакі спустошылі Літву, у чэрвені Ягайла заняў Вільню, а Кейстут здаўся яму і быў задушаны ў Крэўскім замку па загадзе Ягайлы. Сын Кейстута *Вітаўт*, які таксама быў вязнем у Крэве, уцёк да крыжакоў, шукаючы ў іх дапамогі. У 1383 Вітаўт разам з крыжакамі захапіў Коўна, Трокі і спаліў прадмесці Вільні, аднак Ягайла разам з братам *Скіргайлам* вярнуў завяваныя гарады. Вітаўт вярнуўся на тэр. Тэўтонскага ордэна і пачаў згуртоўваць вакол сябе незадаволеных Ягайлам феадалаў ВКЛ. Адначасова ўпотай ад ордэна Вітаўт прапанаваў Ягайлу прызнаць яго вял. князем, калі той аддасць яму спадчыну Кейстута. Ягайла згадзіўся аддаць спачатку Гародню і Берасце, а потым і Трокі. Вітаўт са сваімі прыхільнікамі спаліў 2 замкі крыжакоў, у т.л. Новы Марыенбург, дзе была яго рэзідэнцыя, і вярнуўся ў ВКЛ. Каб умацаваць свае пазіцыі ў барацьбе з крыжакамі, Ягайла пачаў перагаворы аб саюзе ВКЛ з Масквою, спадзеючыся праз шлюб з дачкою вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча і прыняцце літоўцамі праваслаўя гарантаваць падтрымку Маскоўскай дзяржавы ў вайне з Тэўтонскім ордэнам. Аднак, даведаўшыся, што Дзмітрый Іванавіч намерваўся далучыць усх. землі ВКЛ да Маскоўскай дзяржавы, Ягайла адмовіўся ад гэтага саюзу. З мэтай процідзеяння знешняй небяспецы, што таксама пагражала суседняму Польскаму каралеўству, і ўмацавання сваёй улады Ягайла заключыў *Крэўскую унію 1385*, паводле якой ён перайшоў у каталіцтва, прыняў імя Уладзіслаў, ажаніўся з каралевай Ядвігай і быў абвешчаны польскім каралём, абяцаў правесці хрышчэнне літоўцаў паводле каталіцкага абраду і далучыць да



Акт уніі ВКЛ і Польшчы, заключанай у Крэве 14 жніўня 1385.

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ў 1345–1430 гг.









Ягайла. Фрагмент трыпціха з Вавельскага кафедральнага касцёла ў Кракаве. Канец 15 ст.

Польшчы землі ВКЛ. Каб утрымаць уладу ў сваіх руках, Ягайла прызначыў у Вільні і некат. літ. гарадах сваіх намеснікаў, а намеснікам у княстве паставіў свайго брата Скіргайлу. Супраць падпарадкавання ВКЛ Польшчы выступіў Вітаўт, але ён вымушаны быў адступіць да крыжакоў, адкуль арганізоўваў паходы супраць войск Ягайлы і Скіргайлы. У 1391 Вітаўт выдаў сваю дачку *Соф'ю Вітаўтаўну* замуж за вял. князя маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча і ўступіў з ім у паліт. саюз. Міжусобная вайна паміж Вітаўтам і Ягайлам скончылася *Востраўскім пагадненнем 1392*, паводле якога Вітаўт стаў вял. князем літоўскім, ВКЛ гарантавалася самастойнасць у саюзе з Польшчай. Умацаваўшы сваю ўладу, Вітаўт скасаваў некалькі ўдзельных княстваў (у Полацку, Віцебску, Ноўгарадзе-Северскім, Кіеве, на Валыні і Падоллі). У адносінах да Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў праводзіў наступальную палітыку, хоць з-за паліт. абставін вымушаны быў рабіць крыжакам уступкі. Так, з-за частых нападаў крыжакоў на землі ВКЛ Вітаўт у выніку падпісання *Салінскага дагавора 1398* аддаў Тэўтонскаму ордэну частку Жамойці. Пасля *бітвы на Ворскле 1399*, калі войска ВКЛ было разбіта татарскім войскам мурзы Едыгея, Вітаўт вымушаны быў заключыць *Віленска-Радамскую унію 1401*, паводле якой ВКЛ прызнавалася пажыццёвым уладаннем Вітаўта, а Ягайла захоўваў тытул вярхоўнага князя. Палітыка ВКЛ заставалася самастойнай. У 1404 да ВКЛ было канчаткова далучана Смаленскае княства. Каб спыніць агрэсію крыжакоў, Ягайла з Вітаўтам у час сустрэчы з вял. магістрам Тэўтонскага ордэна Конрадам фон Юнгінгенам заключылі *Рацёнжскі дагавор 1404*, які захаваў умовы Салінскага дагавора 1398. У 1409 пачалася *Вялікая вайна 1409–11* паміж ВКЛ і Польшчай з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога. У час *Грунвальдскай бітвы 1410* крыжацкія войскі былі дашчэнту разбіты саюзнымі войскамі. Ордэн быў вымушаны заключыць *Тарунскі мір 1411*, паводле якога ўсе гарады, захопленыя ў час вайны, вярталіся ўладальнікам, Жамойць пераходзіла ў пажыццёвае ўладанне Вітаўта. Пасля Грунвальдскай бітвы пачаўся паліт. занепад Тэўтонскага ордэна. У 1414 і 1419 Польшча і ВКЛ зноў вялі ваенныя дзеянні супраць ордэна. У 1422 адбылася яшчэ адна вайна, якая скончылася падпісаннем *Мельнскага міру 1422*, паводле якога крыжакі ўступалі Жамойць ВКЛ пасля смерці Вітаўта. Была ўсталявана канчатковая мяжа паміж ВКЛ і ордэнам. У 1413 адбыўся агульны польска-літ. сойм у Гарадле. Паводле *Гарадзельскай уніі 1413* 47 польскіх феадалаў прынялі ў гербавае брацтва 47 баяр ВКЛ, што ўмацоўвала паліт. і саслоўны саюз абедзвюх дзяржаў. Было вырашана назначаць на дзярж. пасады віленскага і троцкага ваяводы і кашталяна толькі феадалаў-католікаў, даць ільготы касцёлам і кляштарам, склікаць агульныя соймы абедзвюх краін для вырашэння агульных пытанняў. Вітаўт дамогся абрання асобнага мітрапаліта правасл. царквы ў ВКЛ Грыгорыя Цамблака, не падпарадкаванага маскоўскаму мітрапаліту. У 1425 пасля смерці Васіля Дзмітрыевіча яго ўдава Соф'я Вітаўтаўна стала рэгентшай пры малалетнім сыне і ў 1427 у Смаленску прыняла пратэк-



Вітаўт Вялікі. Літаграфія 19 ст. паводле старажытнага партрэта.





Дачка князя Вітаўта Соф'я. Малюнак 19 ст. з вышыўкі 15 ст.



тарат бацькі (Маскоўскае вял. княства часова стала васальным у дачыненні да вял. князя Вітаўта). Вітаўт скарыстаў гэта і заключыў выгадныя для сябе дагаворы з Псковам і Ноўгарадам, падпарадкаваў сабе Цвярское і Разанскае княствы, а таксама Вярхоўскія княствы (у вярхоўях р. Ака), актыўна ўмешваўся ў справы Залатой Арды і Крыма. У Вільні ён прымаў татарскіх прэтэндэнтаў на трон і пасылаў вайсковыя экспедыцыі, каб пасадзіць на ханскі пасад сваіх стаўленікаў. Выкарыстоўваючы ардынскія міжусобіцы, Вітаўт падпарадкаваў сваёй уладзе прычарнаморскія землі паміж Дняпром і Днястром, пабудаваў шэраг крэпасцей, у т.л. на Чорным моры. ВКЛ стала дзяржавай «ад мора да мора».

Пасля смерці Вітаўта з'езд баяр у Вільні абраў вял. князем малодшага брата Ягайлы – *Свідрыгайлу* [1430–32]. Адразу ж паміж Польшчай і ВКЛ пачаўся канфлікт з-за Валыні і Падолля, у 1431 Ягайла пачаў захоп Валыні. Тэўтонскі ордэн, заключыўшы саюз са Свідрыгайлам, напаў на польскія землі. У выніку змовы літ. баяр Свідрыгайла ў вер. 1432 быў скінуты з трона і ўцёк з Ашмян у Полацк. Вял. князем літоўскім быў абвешчаны малодшы брат Вітаўта *Жыгімонт Кейстутавіч* [1432–40], якога прызналі Літва, Берасцейская, Менская землі і прынёманскія валасці, астатнія бел. і ўкр. землі захавалі вернасць Свідрыгайлу. Пачалася *феадальная вайна 1432–39*, абодва вял. князі намагаліся перацягнуць на свой бок асн. частку феад. класа – бел. і ўкр. баяр, пашыраючы на іх ільготы і прывілеі, дадзеныя феадалам-католікам *Гарадзельскім прывілеем 1413*. 15.10.1432 Жыгімонт аднавіў унію з Польшчай. 9.12.1432 Свідрыгайла пацярпеў паражэнне пад Ашмянамі. У *Вількамірскай бітве 1435* бел.-ўкр. войска Свідрыгайлы, якому дапамагалі крыжакі Лівонскага ордэна, было разбіта польска-літ. войскам Жыгімонта. Пасля выдання Жыгімонтам *прывілея 1434* пра ўраўнаванне асабістых і маёмасных правоў баяр-католікаў і праваслаўных і перадачу на карысць баяр дзярж. павіннасці дзякла Свідрыгайла страціў падтрымку большасці бел. феадалаў. Лівонскі ордэн падпісаў мір з Польшчай і ВКЛ і абавязаўся не падтрымліваць Свідрыгайлу, які замацаваў свае пазіцыі толькі ва ўкр. землях. Атрымаўшы перамогу над Свідрыгайлам, Жыгімонт рашыў вызваліцца з-пад залежных адносін ад Польшчы. Польскія феадалы пайшлі на збліжэнне са Свідрыгайлам, супраць Жыгімонта была арганізавана змова, і 20.3.1440 ён быў забіты.



Пячатка князя Жыгімонта Кейстутавіча. 1430-я г.

Трон спрабаваў заняць яго сын *Міхаіл Жыгімонтавіч*, прэтэндаваў і Свідрыгайла, але паны-рада выбралі вял. князем літоўскім малодшага брата польскага караля Уладзіслава III – *Казіміра IV* Ягелончыка [1440–92], скасаваўшы унію з Польшчай. Казіміру давялося аднаўляць велікакняжацкую ўладу ў Смаленскай зямлі, дзе мсціслаўскі кн. Юрый Лугвенавіч спрабаваў стварыць самастойнае княства, далучыўшы да Мсціслава Віцебск і Полацк. Ад ВКЛ адышла таксама Кіеўская зямля, а на Валыні ўмацаваўся Свідрыгайла. Вял. князю ўдалося ўмацаваць сваю ўладу. Аднак у выніку феад. вайны 1432–39 рэзка знізіўся ўплыў ВКЛ на Усходзе, у рус. княствах. *Дагаворам 1449* Казімір і вял. князь маскоўскі Васіль II падзялілі сферы ўплыву. У зону ўплыву ВКЛ уваходзілі Цвер і Вярхоўскія княствы, а ў сферу ўплыву Масквы – Ноўгарад, Пскоў, Разань. Аднак дагавор пасля не вытрымліваўся. У 1447 пасля смерці Уладзіслава III польскія феадалы выбралі Казіміра каралём, за гэта яны патрабавалі адмовіцца ад Валыні і Падолля і аднаўлення уніі з Польшчай. Перад ад'ездам у Кракаў на каранацыю ён выдаў *прывілей 1447*, які гарантаваў феадалам асабістую недатыкальнасць, скасоўваў натуральныя і грашовыя павіннасці з маёнткаў, перадаваў баярам права судзіць і караць сваіх сялян як вотчынных, так і падараваных вял. князем. Казімір фактычна дамовіўся з феадаламі ўзаемна не прымаць збеглых сялян. Вял. князь выдаў *Судзебнік 1468*, у якім былі змешчаны юрыд. нормы, у асноўным крымінальныя. Так былі ўзмоцнены сац. і паліт. пазіцыі баяр, адначасова былі пашыраны правы правасл. царквы ў ВКЛ: у 1458 яна канчаткова вызвалілася ад падначалення маскоўскай мітраполіі і падпарадкоўвалася канстанцінопальскаму патрыярху. За тое, што Казімір быў схільны перадаць Падолле і Валынь Польшчы, супраць яго была арганізавана змова правасл. князёў на чале з Міхаілам

Казімір IV Ягайлавіч. З кнігі «Партрэты князёў і каралёў польскіх». 1605.



Алелькавічам, Фёдарам Бельскім (нашчадкі Альгерда) і Іванам Гальшанскім, якія хацелі дэтранізаваць Казіміра і ўзвесці на трон Міхаіла Алелькавіча. У 1481 змова была раскрыта, яе не падтрымалі сярэднія і дробныя феадалы, бо на іх не пашыраліся прывілеі, якімі карысталіся магнаты. Міхаіл Алелькавіч і Іван Гальшанскі былі пакараны смерцю, а Фёдар Бельскі ўцёк да маскоўскага вял. князя Івана III, з якім змоўшчыкі былі звязаны і які ўжо меў план захопу ўкр. і бел. земляў. З 1470-х г. крымскія татары рабілі сістэматычныя напады на землі Украіны і паўд. Польшчы, асабліва пачасціліся напады татараў на паўд. землі ВКЛ з 1475, калі Крымскае ханства стала васалам Турэцкай імперыі.



Каранацыя Аляксандра. Мініяцюра з «Пантыфікала» Э.Цёлака. Каля 1510.

Пасля смерці Казіміра вял. князем стаў яго сын *Аляксандр* [1492–1506]. Пры яго абранні паны-рада, вышэйшы кіруючы орган ВКЛ, паставілі ўмовы пра абмежаванне велікакняжацкай улады: усе найважнейшыя дзярж. справы – абарона краіны, міжнародныя адносіны, выданне законаў, разгляд найважнейшых судовых спраў – вял. князь павінен быў вырашаць разам з радай. Пры Аляксандру пачалася серыя войнаў з Маскоўскай дзяржавай. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492–94* ВКЛ страціла Вяземскае княства і частку Вярхоўскіх княстваў. Аляксандр ажаніўся з дачкою маскоўскага вял. князя Івана III *Аленай Іванаўнай*, аднак гэты дынастычны шлюб не палепшыў адносін паміж абедзвюма дзяржавамі – маскоўскі вял. князь па-ранейшаму намагаўся ўмешвацца ва ўнутраныя справы ВКЛ, каб далучыць да Маскоўскай дзяржавы ўкр. і бел. землі. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500–03* недалёка ад Дарагабужа адбылася *бітва на Вядрошы 1500*, у выніку якой войска ВКЛ пад камандаваннем гетмана К.І.Астрожскага было разгромлена, а сам камандуючы трапіў у палон. Маскоўскія войскі спусташалі раёны Смаленска, Оршы, Мсціслава, Полацка, Віцебска і інш. Паводле перамір'я 1503 да Масквы адыходзілі землі з Чарнігавам, Старадубам, Гомелем (да 1537), Бельскае, Таропецкае і частка Мсціслаўскага княстваў. Адначасова ў 1502, 1503 і асабліва ў 1505 адбыліся напады на ўкр. і бел. землі крымскіх татараў, якія руйнавалі паселішчы каля Менска, Слуцка, Навагародка і інш. У 1506 татары праз Брагін, Мазыр, Петрыкаў накіраваліся да Клецка, Менска, Ліды, Ашмян, Ваўкавыска, Гародні. У *Клецкай бітве 1506* 7-тысячнае бел. войска баяр на чале з М.Л.Глінскім разбіла вял. татарскае войска, рэшткі якога знішчаны каля Капыля, Слуцка, Петрыкава і Жытоміра, вызвалена 40 тыс. чал., узятых у палон татарамі. Пасля гэтага разгрому буйныя татарскія напады на Беларусь не паўтараліся.

Інтранізацыя караля Аляксандра. Мініяцюра з «Пантыфікала» Э.Цёлака. Каля 1510.



Пасля смерці Аляксандра на велікакняжацкі трон выбраны яго малодшы брат Жыгімонт I Стары [1506–48]. Каб захаваць хоць бы персанальную унію паміж дзвюма дзяржавамі, польская шляхта праз 3 месяцы выбрала Жыгімонта каралём. Неўзабаве пасля абрання вял. князя адбылася *вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507–08*, якая суправаджалася новым спусташэннем усх., паўд. і цэнтр. Беларусі. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоў-*

*скім 1512–22* у 1514 капітуляваў Смаленск, а пасля адбылася *Аршанская бітва 1514*, у ходзе якой 80-тысячнае маскоўскае войска было разгромлена ўтрая меншым войскам гетмана Астрожскага. Для аховы паўд. межаў ВКЛ, акрамя вайсковых гарнізонаў на Украіне, былі створаны атрады пагранічнай стражы з мясц. жыхароў – казацкія загоны. Яны ў адказ на татарскія набегі самі часта нападалі на паселішчы крымскіх татараў і турэцкія крэпасці на ўзбярэжжы Чорнага мора. У 1524 войска на чале з Астрожскім і кіраўніком казацкіх атрадаў А.Дашковічам штурмам авалодала турэцкай крэпасцю Ачакаў (у 1545 у другі раз). Літ.-бел. войска на чале з Астрожскім, слуцкім кн. Ю.Алелькавічам, гарадзенскім старастам Я.Радзівілам, кіраўніком казакоў Дашковічам і інш. разграміла татарскае войска ў *бітве на Альшаніцы 1527* (каля Канева і Чаркасаў). У час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534–37* дзве рас. арміі на пачатку 1535 праз Маладзечна накіраваліся на Вільню, але да яе не дайшлі, трэцяя праз Рэчыцу, Бабруйск і Слуцк дайшла да Навагародка, а на зваротным шляху спаліла Тураў, Мазыр і Брагін. Былі спалены таксама неўмацаваныя пасады інш. гарадоў. Паводле рас. Піскароўскага летапісца, рас. ваяводы «посады у городов жгли и села жгли и люди, и живот, и животину вынимали, а иное выжгли и вышли поздорову». Бел. шляхта сабралася ў войска і з Рэчыцы ўлетку 1535 накіравалася на Северскую зямлю, узяўшы спачатку Гомель, потым Старадуб. Паводле перамір'я Гомель і Любеч адышлі да ВКЛ.



Жыгімонт Стары, вялікі князь літоўскі і кароль польскі з 1506. Мастак М.Бачарэлі. Канец 18 ст.

Жыгімонт Аўгуст у дзіцячым узросце. Дрэварыт з кнігі Е.Л.Дэцыя «Пра часы караля Жыгімонта». Кракаў. 1521.

Мікалай Радзівіл Руды, вялікі гетман і канцлер ВКЛ. Карціна 17 ст.

Яшчэ пры жыцці Жыгімонта Старога на сойме ў Вільні ў 1529 вял. князем літоўскім быў выбраны яго 9-гадовы сын *Жыгімонт II Аўгуст*. Праз 2 месяцы і польскі сойм выбраў яго польскім каралём. Гэтыя двайныя выбары мелі двайную мэту – стварыць умовы для спадчыннай манархіі ў абедзвюх дзяржавах і забяспечыць умацаванне уніі паміж імі. Далейшым развіццём гэтай палітыкі была перадача ўлады ў ВКЛ Жыгімонту Аўгусту на Берасцейскім сойме ў кастр. 1544. Жыгімонт Стары захаваў тытул вярхоўнага князя, а сын атрымаў усю паўнату ўлады на перыяд адсутнасці бацькі ў дзяржаве. У час княжання Жыгімонта Старога быў прыняты адзін з першых у Еўропе сістэматызаваны збор законаў – *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529*.




У 1548 памёр Жыгімонт Стары і паўнапраўным каралём польскім і вял. князем літоўскім стаў Жыгімонт Аўгуст [1548–72]. У час яго кіравання ў ВКЛ былі праведзены важныя паліт. і эканам. рэформы, у т.л. адміністрацыйныя, у выніку якіх форма і структура адм.-тэр. падзелу ВКЛ былі набліжаны да аналагічнага ладу саюзнага Польскага каралеўства. Паводле адм. рэформы 1565–66 утвараліся павятовыя соймікі, якія вырашалі мясц. пытанні, і павятовыя суды – земскія, гродскія і падкаморскія. У *Інфлянцкую вайну 1558–82* рас. цар Іван IV Грозны намагаўся захапіць Інфлянты (Лівонію), атрымаць новых прыгонных сялян і гарады на Балтыйскім моры для гандлю з Еўропай. Паводле дагавора з магістрам ад 31.8.1559 Лівонскі (Інфлянцкі) ордэн пераходзіў пад пратэктарат Жыгімонта Аўгуста, да дагавора далучыўся і рыжскі арцыбіскуп. Паколькі пазіцыя Польшчы ў інфлянцкім пытанні была асцярожнай, ВКЛ уступіла ў вайну без саюзніка. Ваенныя дзеянні пачаліся ўлетку 1561. У пач. 1563 цар з гал. сіламі пачаў аблогу Полацка. Невял. гарнізон 2 тыдні адбіваў атакі непрыяцеля, але вымушаны быў капітуляваць; частка жыхароў была знішчана, частка выслана ў Маскву. У пач. 1564 10-тысячнае (паводле інш. звестак 4-тысячнае) войска гетмана М.Радзівіла Рудога разбіла 30-тысячнае маскоўскае войска ў *бітве на Уле 1564*. Улетку 1564 войскі Івана IV знішчалі вёскі ў раёне Мсціслава, Крычава і Магілёва, у адказ у 1565 бел.-літ. войска





Іван IV як усходні дэспат. Заходнееўрапейская карыкатура. 1582.




Аўтар карты М.Ф. Спірыдонаў

НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

паводле адміністрацыйнага значэння

- Сталіца Вялікага княства Літоўскага
- Цэнтры ваяводстваў
- Цэнтры паветаў (і паветаў Рускай дзяржавы)
- Цэнтры буйнейшых уладанняў (валасцей)
- Іншыя населеныя пункты

паводле тыпу паселішча

- МЕНСК Гарады
- Лоск Мястэчкі
- *Пухавічы* Вёскі
- Замкі ў населеных пунктах

МЕЖЫ

- Рэчы Паспалітай
- Вялікага княства Літоўскага
- ваяводстваў
- паветаў
- Сучасныя граніцы дзяржаў

ЛІЧБАМІ ПАЗНАЧАНЫ ТЭРЫТОРЫІ:

1 Рускай дзяржавы
2 Прускага герцагства
3 Каралеўства Польскага

*РУСЬ* Назвы гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў

Найважнейшыя дарогі

ЛІЧБАМІ НА КАРЦЕ ПАЗНАЧАНЫ ВЁСКІ:

*Б-2: 1. Вароны; Б-3: 2. Сар'я, 3. Сітца, 4. Страча, 5. Гнязділавічы, 6. Бубны, 7. Данюшава, 8. Уланавічы, 9. Буцэвічы; Б-4: 10. Боркавічы, 11. Курылавічы, 12. Ветрына, 13. Гаране, 14. Зябкі, 15. Кублічы, 16. Церабяшова, 17. Мосар, 18. Гнязділавічы, 19. Камень, 20. Бешанковічы, 21. Пышна, 22. Крычын, 23. Чарневічы; Б-5: 24. Сялюты, 25. Серадкаротня, 26. Любіж; В-2: 27 Верцялішкі, 28. Мажэйкава, 29. Дубна, 30. Харабровічы, 31. Біскупічы, 32. Парэчча, 33. Дзедкавічы, 34. Вял. Гаць, 35. Імянін, 36. Літоўскае, 37. Охава; В-3: 38. Лаўрышава, 39. Любна, 40. Жацераў, 41. Вялешына, 42. Завінне, 43. Дубай; В-4: 44. Максімавічы, 45. Гарбавічы, 46. Скрыгалава, В-5: 47. Буйнічы, 48. Добрае, 49. Дракава, 50. Холстава, 51. Дубна, 52. Лучын, 53. Міркалавічы, 54. Цярэнічы, 55. Чорныя; Г-1: 56. Олтуш; Г-3: 57. Мілашавічы; Г-4: 58. Баравое, 59. Смалігавічы, 60. Навасёлкі*

SARMATIAE EVROPEAE DESCRIPTIO, QVAE REGNVM POLONIAE, LITVANIAM, SAMOGITIAM, RVSSIAM, MASSOVIAM, PRVSSIAM, POMERANIAM, LIVONIAM, ET MOSCOVIAE, TARTARIAEQVE ...

SPIRAE.

CVM PRIVILEGIO IMPER. ET REGIS GALL.

APVD BERNARDVM ALBINVM

M. D. LXXXI.

Тытульны ліст «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваніні, у якой паведамляецца пра падзеі Інфлянцкай вайны. 1581.

зрабіла рэйды пад Вял. Лукі і Смаленск. На завяванай тэрыторыі Іван Грозны загадаў пабудаваць крэпасці Усвяты, Ула, Сокал, Суша і інш. У 1567 ваенныя дзеянні аднавіліся, у ліпені 2-тысячны атрад гетмана польнага ВКЛ Р.Ф.Сангушкі разграміў лагер рас. войск пад Чашнікамі (9 тыс.чал.), у верасні разбіў 9-тысячнае маскоўскае войска на маршы, у вер. 1568 узяў штурмам замак Улу, а віцебскія казакі на чале з С.Бірулем спалілі замкі Усвят і Веліж. У адказ рас. войскі спрабавалі ўзяць Віцебск, але толькі спалілі гар. прадмесці. Ход вайны паказаў, што самому ВКЛ без саюзнікаў не перамагчы такую моцную дзяржаву, як Расія. Шляхта ВКЛ на палявым сойме каля Віцебска 13.9.1562 прыняла акт і накіравала яго вял. князю з просьбай заключыць новую дзярж. унію з Польшчай. Яна намагалася мець агульныя соймы з польскай шляхтай, сумесна з ёю выбіраць караля і вял. князя, а галоўнае – карыстацца аднолькавымі правамі і разам змагацца з ворагам. Супраць уніі з Польшчай выступіла асн. частка магнатаў на чале з віленскім ваяводам, канцлерам і маршалкам земскім М.Радзівілам Чорным, якая не хацела страціць свае паліт. пазіцыі ў кіраванні дзяржавай і свае грамадскія прывілеі на карысць агульнай масы шляхты ўнутры ВКЛ. Віленскі сойм

1563 разгледзеў пытанне аб уніі з Польшчай і вылучыў дэлегацыю для перагавораў з дэлегацыяй польскага сойма. Магнаты дамагаліся ўключэння ў інструкцыю для перагавораў пунктаў, якія захоўвалі за ВКЛ цэласнасць, адасобленасць і значную ролю самастойнасці. Абвяшчэнне вайны і заключэнне міжнар. дагавораў павінны былі папярэдне ўзгадняцца абедзвюма дзяржавамі. Агульныя соймы маглі збірацца толькі ў выключных выпадках. Соймы, дзярж. пасады, установы і суды заставаліся асобнымі. Выбіраўся адзіны кароль (ён жа вял. князь літоўскі), але каранацыя яго павінна была праводзіцца асобна ў Кракаве і Вільні. Польскія магнаты хацелі поўнай інкарпарацыі ВКЛ у склад Польшчы, іх падтрымлівала і польская шляхта. Далейшыя перагаворы аб уніі адбываліся на Варшаўскім сойме 1563–64, на сойме ВКЛ у Бельску ў 1564, у Парчаве, на Берасцейскім сойме 1566, на палявым сойме ў Лебедзеве. Нарэшце 1.7.1569 у Любліне асобна дэпутатамі польскага сойма і сойма ВКЛ пад прысягаю былі прыняты акты аб уніі (гл. *Люблінская унія 1569*), паводле якіх урачыста абвяшчалася аб'яднанне на аснове роўнасці Польшчы (Кароны) і ВКЛ (Літвы, або Княства) у федэратыўную дзяржаву – *Рэч Паспалітую*. Пры гэтым у склад Польшчы ўвайшлі Падляшша і ўкр. землі ВКЛ. На чале Рэчы Паспалітай быў кароль польскі (ён жа вял. князь літоўскі), якога выбірала пажыццёва шляхта «абодвух народаў». Ствараўся агульны для ўсёй дзяржавы магнацка-шляхецкі сойм з 2 палат: *Сената* (магнаты, прадстаўнікі цэнтр. і правінцыяльнай адміністрацыі, вярхі каталіцкай царквы) і *Пасольскай Ізбы*, у якую выбіраліся па 2 паслы ад кожнага павета. Былыя прывілеі феадалам пакідаліся ў абедзвюх дзяржавах, абедзве краіны захоўвалі суверэнітэт, асобныя дзярж. адміністрацыю, войскі, скарб і правы эмісіі аднолькавай манеты, адм. і судовы апарат, свае законы і сваю мытную сістэму. Кожная краіна мела сваю дзярж. мову: Польшча – лацінскую, ВКЛ – беларускую. Асобным актам 3.8.1569 *Курляндскае і Земгальскае герцагства* было абвешчана васалам Польшчы і ВКЛ, Інфлянты – сумесным уладаннем (кандамініумам). Люблінская унія была кампрамісам феадалаў Польшчы і ВКЛ, у выніку якога ствралася больш моцная дзяржава, яна ўмацоўвала паліт. еднасць абедзвюх дзяржаў, узмацніла працэсы іх эканам., паліт. і культ. збліжэння, уплыў еўрапейскай культуры на бел. і літ. землі. У вайскова-паліт. адносінах, пры правядзенні агульнай знешняй палітыкі абедзвюх краін унія дапамагала бел. народу адбіць агрэсію Рас. дзяржавы, утрымаць сваю незалежнасць і захаваць сваю дзяржаву.




Медаль, выбіты ў гонар Мікалая Радзівіла Чорнага. Серабро. 1563.

Замкі, пабудаваныя маскавітамі на захопленых землях ВКЛ. Гравюры 1579.










**ВКЛ пасля Люблінскай уніі (з 1569 да 1795).** Пасля смерці Жыгімонта Аўгуста польскім каралём і вял. князем літоўскім выбраны *Генрык* Валезы [1573–74] (брат французскага караля Карла IX), які прабыў на троне некалькі месяцаў і, даведаўшыся аб смерці брата, у ноч на 19.6.1574 уцёк у Францыю, дзе стаў каралём Генрыхам III. Новым каралём польскім і вял. князем літоўскім выбраны князь Трансільваніі *Стафан* Баторый [1576–86]. Выкарыстаўшы нестабільнасць паліт. становішча ў Рэчы Паспалітай, Іван IV Грозны пачаў наступленне ў Інфлянтах, рас. войскі занялі тэрыторыю ад Дынабурга да Рыгі. У ліп. 1579 40-тысячнае польскае і бел.-літ. войска Стафана Баторыя разам з венгерскімі і ням. наёмнікамі, адрэзаўшы рас. войскі ў



Маскоўскі стралец. Тагачасны малюнак.




Аблога Полацка войскамі Стафана Баторыя ў 1579. Гравюра Дж.Б.Кавальеры паводле малюнка С.Пахалавіцкага. Рым. 1580.

Інфлянтах ад Расіі, рушыла да Полацка. Перадавыя бел.-літ. атрады пад камандаваннем гетмана вялікага М.Радзівіла Рудога і яго сына гетмана польнага К.Радзівіла занялі замкі Казяны, Сітна і Красны. Пасля 26-дзённай аблогі быў вызвалены Полацк, 4 вер. ўзяты замак Сокал, а праз месяц – Суша. У наступную кампанію войскі Баторыя занялі Усвят, Веліж, увосень 1580 – Вял. Лукі, Невель, Завалочча, Азярышча, а ў канцы года – Холм і Старую Русу. У 1581 рас. войскі спустошылі ваколіцы Дуброўны, Оршы, Копысі, Шклова, Магілёва і Мсціслава. 26.8.1581 войскі Баторыя ўзялі ў аблогу Пскоў, але безвынікова. 15.1.1582 Рэч Паспалітая і Расія падпісалі *Ям-Запольскае перамір'е 1582* на 10 гадоў, паводле якога Расія адмаўлялася ад Інфлянтаў, Полаччыны і Веліжа, а Рэч Паспалітая вяртала ёй завяяваныя крэпасці на рас. тэрыторыі. Пасля смерці Баторыя каралём польскім і вял. князем літоўскім быў выбраны шведскі каралевіч *Жыгімонт III* Ваза [1587–1632], які імкнуўся мець падтрымку літ.-бел. магнатаў і шляхты. 28.1.1588 ён выдаў прывілей, якім зацвярджаўся *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*. Пасля смерці бацькі Юхана III (1592) Жыгімонт заняў і шведскі трон. У сваёй палітыцы ён намагаўся знішчыць у Рэчы Паспалітай рэфармацыю і вярнуць былыя пазіцыі каталіцкай царкве пры падтрымцы ордэна езуітаў. У 1599 шведскія пратэстанты скінулі Жыгімонта з трона, а ў 1604 абвясцілі яго дзядзьку Карла каралём Швецыі Карлам IX. У час абвяшчэння *Берасцейскай уніі 1596* Жыгімонт падтрымаў іерархію і царкоўны сабор уніятаў Беларусі і Украіны. Як шчыры католік, Жыгімонт усяляк падтрымліваў ідэю уніі і дапамагаў ажыццяўляць яе, але як палітык і кіраўнік дзяржавы вымушаны быў лічыцца з рэальным становішчам у краіне і за яе межамі, таму ён далучыўся да пастаноў соймаў Рэчы Паспалітай 1609, 1618 і 1631, якія гарантавалі правы праваслаўных. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600–29* польскае і літ.-бел. войска на чале з Я.К.Хадкевічам ушчэнт разбіла шведскае войска ў *Кірхгольмскай бітве 1605*, аднак выкарыстаць вынікі перамогі Жыгімонт не здолеў. Актыўная знешняя палітыка Рэчы Паспалітай у пач. 17 ст. была прыпынена *Зэбжыдоўскага рокашам 1606–09*, калі частка магнатаў і шляхты на чале з кракаўскім ваяводам М.Зэбжыдоўскім і падчашым ВКЛ Я.Радзівілам падняла зброю супраць Жыгімонта III, каб не даць яму ўстанавіць абсалютную ўладу і дэтранізаваць яго. Рокаш пацярпеў няўдачу, але і кароль быў вымушаны адмовіцца ад рэформы ўлады на сваю карысць. Пазней Жыгімонт III захапіўся новым планам, прапанаваным групай магнатаў і шляхты, – далучыць Маскоўскую дзяржаву да Рэчы Паспалітай у якасці члена федэрацыі або заключыць саюз, але

Стафан Баторый. Мастак М.Кобер. 1583.



з каралевічам польскім у якасці цара. З гэтай мэтай кароль разам з магнатамі і шляхтай падтрымаў *Ілжэдзмітрыя I*, а потым *Ілжэдзмітрыя II*, але, калі апошняму не ўдалося захапіць Маскву, Жыгімонт пачаў рыхтавацца да вайны. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609–18* польскае і бел.-літ. войскі, разбіўшы рас. войска каля Клушына (пад Гжацкам), падышлі да Масквы, дзе адбыўся пераварот, і сын Жыгімонта каралевіч Уладзіслаў быў абвешчаны рас. царом. У 1610 польскае і бел.-літ. войскі занялі Маскву. Жыгімонт не адпусціў сына ў Расію, ён больш схіляўся да дзярж. уніі Рэчы Паспалітай з Расіяй. 22–26.10.1612 апалчэнне пад кіраўніцтвам К.Мініна і Дз.Пажарскага вызваліла Маскву, а ў лют. 1613 земскі сабор выбраў на царскі трон Міхаіла Фёдаравіча Раманава. У 1617–18 каралевіч Уладзіслаў, які меў тытул цара маскоўскага і ўсяе Русі, сам узначаліў паход на Маскву, рас. ваяводы здавалі «на імя царскае» гарады, але вычарпаныя баявыя рэсурсы і вял. страты ў людзях прымусілі абодва бакі пайсці на перагаворы. Паводле *Дэулінскага перамір'я 1618* да ВКЛ адышлі землі Смаленшчыны з гарадамі Смаленск, Белы, Дарагабуж, Сярпейск, Рослаў, а таксама Старадуб і Трубчэўск, да Польшчы – Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Глухаў, Лебядзін і Ахтырка на Украіне. Каралевіч Уладзіслаў захаваў тытул рас. цара, але і Міхаіл Фёдаравіч застаўся на троне.



Дзяржаўная пячатка «маскоўскага царэвіча» Лжэдзмітрыя I. Польшча. 1604.



Ян II Казімір Ваза. Мастак Д.Шульц.



Уладзіслаў IV Ваза. Невядомы мастак. 2-я пал. 18 ст.

Адной з прычын няўдалых паходаў у Расію была пастаянная напружанасць ва ўзаемаадносінах з Аўстрыяй, Малдовай, Крымам і Турцыяй. Вяліся кровапралітныя *войны Рэчы Паспалітай з Турцыяй 17 ст.* (1620–21, 1667, 1672–76, 1683–99). У 1620 у бітве каля Цацоры на р. Прут польскае войска было разбіта турэцка-татарскай арміяй, але ў *Хацінскай бітве 1621* турэцкае войска вымушана было адступіць. Пасля смерці Жыгімонта каралём польскім і вял. князем літоўскім выбраны яго сын *Уладзіслаў IV* Ваза [1632–48]. Выкарыстаўшы міжуладдзе ў Рэчы Паспалітай, цар Міхаіл Фёдаравіч пачаў *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632–34*. Рас. войскі ўзялі ў аблогу Смаленск, але горад яе вытрымаў. Маскоўская армія была акружана польскімі і бел.-літ. войскамі на чале з каралём і капітулявала. *Палянаўскі мір 1634* пацвердзіў умовы Дэулінскага перамір'я аб пераходзе Смаленскага ваяв. ў склад ВКЛ. Кароль Уладзіслаў быў вымушаны адмовіцца ад тытула рас. цара.



Памятны медаль у гонар вяртання Смаленска ў склад Вялікага княства Літоўскага. Серабро. 1636.

У канцы 16–пач. 17 ст. ўскладнілася становішча на Украіне. Інкарпарацыя ўсх. укр. ваяводстваў Польшчай стварыла магчымасці для пранікнення на Украіну польскай шляхты і каталіцкага духавенства, што прывяло да запрыгонення дзесяткаў і соцень тысяч укр. сялян, узмацнення нац. прыгнёту і рэлігійных супярэчнасцей. Няўстойлівая пазіцыя правасл. царквы і яе аўтарытэт сярод сялян, мяшчан і казакоў садзейнічалі канфрантацыі, асабліва з боку казацтва, якое было абмежавана ў правах і хацела пазбавіцца кантролю з боку польскіх улад. У канцы 16 ст. адбыўся шэраг казацкіх выступленняў і паўстанняў, да якіх далучаліся найб. смелыя, актыўныя і вольналюбівыя сяляне. Казакі выступалі як абаронцы «простага народу» («людзей паспалітых») – сялян і мяшчан. Але нярэдка, асабліва калі вярталіся з паходаў у Прыбалтыку праз Беларусь, яны рабавалі і забівалі насельніцтва, палілі дамы. Адным з самых буйных антыфеад. казацка-сялянскіх выступленняў на Украіне і паўд. Беларусі было *Налівайкі паўстанне 1595–96*. Адступаючы пад націскам 7-тысячнага войска рэестравых (запісаных на

каралеўскую службу) казакоў, паўстанцы адышлі на Палессе, дзе да іх далучыліся мясц. сяляне, мяшчане і дробная шляхта, захапілі Петрыкаў і Слуцк. Пасля паражэння пад Капылём 2-тысячны атрад казакоў і сялян заняў Магілёў, але пасля *Буйніцкай бітвы 1595* паўстанцы зноў адступілі на Палессе і праз Тураў і Пінск адышлі на Валынь. Пасля задушэння польскімі войскамі некалькіх казацка-сялянскіх паўстанняў (1625, 1630, 1635, 1637 і 1638) на Украіне настала зацішша, якое шляхта называла гадамі «залатога спакою». У 1638 сойм Рэчы Паспалітай зацвердзіў «Ардынацыю войска запарожскага рэестравага на службе Рэчы Паспалітай», вызначыўшы рэестр у 6 тыс. казакоў з ільготамі і прывілеямі да іх. У казацкім руху адбыўся раскол, таму казацка-сялянскія паўстанні былі накіраваны не толькі супраць казацкай старшыны, а часам і супраць рэестравага казацтва. На Беларусі не было такой выбуховай сітуацыі, як на Украіне. Казацкія загоны, што прыходзілі з Украіны, станавіліся каталізатарамі паўстанцкага руху, які спыняўся, калі казакі адыходзілі назад.

У апошнія гады жыцця кароль Уладзіслаў распрацоўваў планы вял. вайны супраць Турцыі і Крымскага ханства. Ён разлічваў на саюз з Расіяй і на ўкр. казацтва, але гэта выклікала незадавальненне магнатаў і заможнай шляхты, якія абвінавацілі караля ў падрыхтоўцы дзярж. перавароту. Уладзіслаў вымушаны быў адмовіцца ад планаў вайны з Турцыяй. А казакі тым часам працягвалі рыхтавацца да вайны, толькі супраць польскай шляхты. У студз. 1648 гетманам запарожскага войска быў выбраны Б.Хмяльніцкі, які заключыў саюзны дагавор з крымскім ханам і на чале казацкага войска і 4-тысячнага атрада крымскіх татараў разграміў польскія войскі каля Жоўтых Водаў і Корсуня, што стала сігналам для нар. паўстання па ўсёй Украіне. У Беларусі пачалася *антыфеадальная вайна 1648–51*. 20.5.1648 памёр кароль Уладзіслаў. Скарыстаўшы перыяд міжуладдзя, казацкія войскі занялі ўсю Левабярэжную Украіну. 20.11.1648 новым каралём польскім і вял. князем літоўскім быў выбраны малодшы брат Уладзіслава *Ян II Казімір* Ваза [1648–68], які заключыў з Хмяльніцкім перамір'е.



Бітва з туркамі. Дрэварыт з «Хронікі ўсяго свету» М.Бельскага. 1564.

У дачыненні да Беларусі ў Хмяльніцкага былі асобныя планы. Ён хацеў адцягнуць ад наступлення на Украіну бел.-літ. войска і звязаць яго ваеннымі дзеяннямі на тэр. Беларусі, а пры спрыяльнай сітуацыі далучыць частку Беларусі (асабліва Палессе і Падняпроўе) да Украіны пад эгідай правасл. царквы. Улетку 1648 на Пд Беларусі паявіліся казацкія загоны Я.Галавацкага, А.Нябабы, Крывашапкі, І.Гаркушы, Міхненкі, Паддубскага і інш., якія рабавалі панскія маёнткі, касцёлы і кляштары, знішчалі фінансавыя дакументы, забівалі каталіцкіх святароў і манахаў. Да казакоў далучаліся сяляне і частка гараджан, паўстанцы захапілі Гомель, Лоеў, Брагін, Мазыр, Тураў, Пінск, Бабруйск. У канцы 1648 у раёне Берасця сабралася ўрадавае войска ВКЛ пад камандаваннем гетмана польнага Я.Радзівіла, якое, рухаючыся ўздоўж Прыпяці на У, авалодала Туравам, Мазыром, Бабруйскам, Рэчыцай. Вясной 1649 на Беларусь зноў былі накіраваны казацкія атрады І.Галоты, С.Падбайлы, Гаркушы, цераз Дняпро пераправіўся вял. казацкі атрад М.Крычэўскага, да якога далучыліся сяляне. У *Лоеўскай бітве 1649* аб'яднанае казацка-сялянскае войска Крычэўскага было акружана, але з вял. стратамі (загінуў і сам Крычэўскі) часткова выйшла з аблогі. У 1650 у паўд. раёнах Беларусі адбываліся адзінкавыя сялянскія паўстанні. У 1651 зноў пачаліся паўстанні ў раёнах Мсціслава, Прапойска, Чачэрска і Горваля, якія былі задушаны бел.-літ. войскам, бо на дапамогу ім ужо ніхто не прыйшоў. У ліп. 1651 войска Радзівіла накіравалася на Украіну, па дарозе ў *Лоеўскай бітве 1651* разграміла 15-тысячнае казацкае войска М.Нябабы (сам Нябаба загінуў) і заняло Кіеў. На Украіне яшчэ адбываліся бітвы ў 1652 і 1653, у кастр. 1653 земскі

Вялікі гетман ВКЛ Януш Радзівіл. Мастак Д.Шульц. Каля 1652.





Ваявода віленскі і вялікі гетман ВКЛ П.Я.Сапега. Літаграфія В.Герсана. 19 ст.

сабор у Маскве прыняў пастанову аб далучэнні Левабярэжнай Украіны да Расіі, а 18.1.1654 Пераяслаўская рада зацвердзіла гэту пастанову.

Улетку 1654 пачалася *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67*. Маскоўскі цар старанна рыхтаваўся да вайны, таму выставіў 80–83 тыс. чал. супраць 10-тысячнага польскага і бел.-літ. войска. Рас. армія заняла Дарагабуж, Рослаў, Мсціслаў, Шклоў, Оршу, аблажыла і праз 3 месяцы ўзяла Смаленск, пасля працяглага супраціўлення – Дуброўну. Казакі І.Залатарэнкі занялі Гомель, Чачэрск, Новы Быхаў і аблажылі Стары Быхаў, 3 вер. здаўся Магілёў. На Пн Беларусі армія В.П.Шарамецева заняла Невель, Полацк, Дзісну, Друю, Усвят, у ліст. 1654 – Віцебск. Рас. войскі наступалі таксама ў Інфлянтах і на Украіне разам з укр. казакамі. У канцы 1654–пач. 1655 войскі Я.Радзівіла, А.Гасеўскага, П.Я.Сапегі, Е.К.Глябовіча, С.Аскеркі перайшлі ў наступленне: у снеж. 1654 знята аблога Старога Быхава і ў горад уведзены новыя падмацаванні, вызвалены Копысь, Дуброўна і Орша, зроблена спроба заняць Магілёў. Улетку 1655 рас. войска і казакі Залатарэнкі правялі паспяховае наступленне на Беларусі і ў Літве: была занята ўся цэнтр. і значная частка зах. Беларусі. Зноў былі захоплены Дуброўна, Орша, Копысь, у ліпені мяст. Свіслач (пры сутоках Свіслачы з Бярэзінай), Барысаў, Менск, у жніўні Вільня, Гародня і Коўна, казацкія атрады занялі Панямонне. Армія А.М.Трубяцкога не здолела авалодаць Старым Быхавам і Слуцкам, затое рэйдам прайшла па Беларусі, заняла і спаліла Клецк, Ляхавічы, Мыш, Сталавічы, Слонім, Навагародак, дзе злучылася з казацкім атрадам В.Залатарэнкі, а на зваротным шляху спаліла Нясвіж, Капыль, безвынікова імкнулася авалодаць Слуцкам. На Пд атрад Валконскага захапіў, абрабаваў і спаліў Тураў, Давыд-Гарадок, Столін і Пінск. У час ваенных дзеянняў былі разрабаваны і спалены многія гарады і вёскі, шмат людзей загінула або трапіла ў палон, дзесяткі тысяч сялян, тысячы гараджан былі вывезены ў Расію.

Летам 1655 пачалася *Паўночная вайна 1655–60*. Армія шведскага караля Карла Х Густава напала на Польшчу і неўзабаве амаль уся тэр. Польшчы і Жамойці была занята шведамі. Шведскі кароль прапанаваў цару Аляксею Міхайлавічу план падзелу Рэчы Паспалітай, аддаючы яму ўкр. землі ад Галіча або Львова праз Луцк да Прыпяці, далей тэрыторыі па лініі Слуцк–Менск–Докшыцы–Дзісна, але цар адмовіўся ад гэтага плана, бо рас. войскі паспяхова захапілі бел. землі і на З ад прапанаванай шведскім каралём лініі. Частка феад. знаці вырашыла захаваць дзяржаўнасць ВКЛ у саюзе са Швецыяй. 20.10.1655 Я.Радзівіл, яго стрыечны брат Б.Радзівіл з вял. групай паноў і шляхты (гал. чынам з Жамойці) заключылі *Кейданскі дагавор 1655* аб уніі ВКЛ са Швецыяй, прызнаючы караля Карла Х Густава вял. князем літоўскім. Шляхце і каталіцкай царкве пакідаліся ранейшыя прывілеі. Частка шляхты выказалася за Аляксея Міхайлавіча ў якасці вял. князя літоўскага, частка шляхты працягвала барацьбу з рас. і шведскімі войскамі, выступаючы за захаванне дзярж. уніі з Польшчай. Рыхтуючыся да вайны са Швецыяй за Прыбалтыку, рас. цар заключыў з Рэччу Паспалітай *Віленскае перамір'е 1656*. У гэты ж час Швецыя, Трансільванія, Брандэнбургска-Пруская дзяржава і гетманская Украіна заключылі *Радноцкі дагавор 1656* аб падзеле тэрыторыі Рэчы Паспалітай і нават пачалі зноў ваенныя дзеянні (захоп Берасця). Аднак з-за шэрагу прычын саюз дзяржаў супраць Рэчы Паспалітай распаўся ў 1657.




Маскоўская артылерыя на маршы. Малюнак 17 ст.

На захопленай тэр. Беларусі была ўстаноўлена рас. адміністрацыя, у буйныя гарады былі прызначаны рас. ваяводы. Шляхце, якая прысягнула цару, рас. ўрад захаваў маёнткі і саслоўныя правы. Тыя шляхціцы, што аказвалі супраціўленне ў час абароны або былі ўзяты ў палон, пазбаўляліся маёнткаў. За правасл. царквой захоўваліся ўсе ўладанні і правы. Была забаронена дзейнасць рымска-каталіцкай і уніяцкай цэркваў, зачынены касцёлы і кляштары, каталіцкія навуч. ўстановы. Гарады Беларусі, разрабаваныя і абязлюджаныя, атрымалі граматы на дазвол рамесніцка-гандлёвай дзейнасці, маскоўскі ўрад на час вайны нават захаваў у гарадах з магдэбургскім правам самакіраванне і гар. суд,

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ў XVII ст.




Граніцы дзяржаў паводле Сталбоўскага міру 1617 г. і Дэулінскага перамір'я 1618 г.

Граніцы дзяржаў і залежных тэрыторый у складзе Рэчы Паспалітай

Граніца паміж Польшчай і Вялікім княствам Літоўскім паводле Люблінскай уніі 1569 г.

Тэрыторыя Рэчы Паспалітай, якая была занята шведамі ў 1621–29 гг. і адышла да Швецыі паводле Аліўскага міру 1660 г.

1 1 Тэрыторыі, страчаныя Рэччу Паспалітай паводле Палянаўскага міру 1634 г. і размежаванняў 1630–40-х гадоў

Тэрыторыі, страчаныя Рэччу Паспалітай у 1667 г. і зноў вернутыя ёй у 1678 г.

2 2 Тэрыторыі, страчаныя Рэччу Паспалітай паводле Андросаўскага перамір'я 1667 г. і Вечнага міру 1686 г.

Граніцы дзяржаў у 1699 г.

Межы ваяводстваў Вялікага княства Літоўскага

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

ВІЛЬНЯ Сталіцы дзяржаў

МЕНСК Цэнтры ваяводстваў і васальных герцагстваў Рэчы Паспалітай

*Пінск* Іншыя населеныя пункты

Маштаб 1:6 000 000

Аўтары: Л.Р.Казлоў, Л.Ю.Міхайлоўская



Аблога Берасця шведамі і іх саюзнікамі. Гравюра Э.Дальберга.

але пад кантролем рас. ваявод. Значна пагоршала становішча сялян у выніку захопу іх для адпраўкі ў маёнткі Расіі, а таксама на продаж у рас. гарадах або на вываз у азіяцкія краіны. Сяляне, якіх раздавалі шляхце, абкладаліся дадатковымі павіннасцямі – так новыя гаспадары імкнуліся кампенсаваць свае страты ў час вайны. Украінская старшына намагалася далучыць усх. частку Беларусі да гетманскай Украіны. Казацкія войскі ўзначальваў І.Нячай, пасля *Гадзяцкага дагавора 1658* ён з казакамі перайшоў на бок Рэчы Паспалітай і заняў значную частку ўсх. Беларусі (Быхаў, Чавусы, Мсціслаў, Рослаў і інш.) і паўд. раёны. 14.2.1659 рас. войскі штурмам узялі Стары Быхаў, дзе знаходзіўся апорны пункт казакоў Нячая, і жорстка расправіліся з кіраўнікамі казацкіх атрадаў. І толькі па просьбе новага гетмана Украіны Ю.Хмяльніцкага Нячай быў памілаваны і высланы ў Табольск.

Увосень 1659 на Беларусь была кінута моцная рас. армія пад камандаваннем І.А.Хаванскага, якая ў снежні авалодала Гародняй, а 13.1.1660 заняла Берасце, у сак. 1660 узяла ў аблогу ўмацаваную крэпасць П.Я.Сапегі – Ляхавічы. Аб'яднанае войска ВКЛ пад камандаваннем Сапегі і польскае войска пад камандаваннем С.Чарнецкага 28.6.1660 атрымалі перамогу над арміяй Хаванскага ў *Палонкаўскай бітве 1660*. 3.7.1660 войскі Сапегі і Чарнецкага занялі Менск, была вызвалена тэр. Беларусі на 3 ад Бярэзіны. Хаванскі з рэшткамі войска пацярпеў паражэнне ў *Чарэйскай бітве 1660* і адступіў у Полацк. 8.10.1660 аб'яднаныя бел.-літ. і польскае войскі сустрэлі рас. войска Ю.А.Далгарукага каля Чавус і не дапусцілі аб'яднання яго з войскамі Хаванскага, Далгарукі адступіў да Смаленска. 11.2.1661 гараджане Магілёва за адну ноч знішчылі 3-тысячны гарнізон стральцоў (гл. *Магілёўскае паўстанне 1661*), такія ж паўстанні адбыліся ў Дзісне, Себежы, Гомелі і інш. гарадах. 2.12.1661 была вызвалена Вільня. Потым ваенныя дзеянні прыпыніліся на 2 гады, бо больш чым палова войска не атрымала аплаты. У гэты час таксама адбыўся *Любамірскага рокаш 1665–66*, скіраваны супраць рэформ дзярж. ладу. Але Расія ўжо не магла скарыстаць сітуацыю. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* Расія захавала Смаленшчыну, Левабярэжную Украіну і Кіеў. Расія не змагла ўтрымаць ўсё заваяванае, а Рэч Паспалітая не здолела вярнуць усе свае землі. Вайна 1654–67 стала нац. трагедыяй бел. народа. Большасць гарадоў, вёсак і мястэчак была разрабавана і зруйнавана, сельская гаспадарка, рамёствы і гандаль прыйшлі ў заняпад. Колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася напалову (у 1650 на Беларусі жыло 2,9 млн. чал., у 1667–73 – 1,4 млн. чал.). Расчараваны няўдачамі кароль

Ян II Казімір 16.9.1668 адрокся ад трона і выехаў у Францыю. Каралём польскім і вял. князем літоўскім быў выбраны *Міхал* Вішнявецкі [1669–73], вылучэнец прааўстрыйскай групоўкі магнатаў і шляхты. Паводле пастановы сойма 1673, кожны трэці сойм (акрамя тых, якія выбіралі караля) збіраўся ў ВКЛ у Гародні. У 1660–1-й пал. 1670-х г. у ВКЛ найбольшага паліт. ўплыву дамагліся Пацы, прыхільнікі шляхецкай прааўстрыйскай групоўкі. Яны прызначаліся каралём на найбольш важныя дзярж. пасады. Пасля смерці Міхала Вішнявецкага каралём польскім і вял. князем літоўскім выбраны палкаводзец *Ян III* Сабескі [1674–96], якога падтрымлівалі магнаты і шляхта прафранцузскай арыентацыі, таму супраць кандыдатуры караля спачатку вельмі моцна выступала «літоўская групоўка» на чале з Пацамі.



Ян III Сабескі. Мастак М.Бачарэлі. Канец 18 ст.

Ян Сабескі давёў вайну з Турцыяй і яе васалам – Крымам – да перамогі. Паводле перамір'я 1676 да Польшчы (на тэр. Украіны) былі далучаны Белацаркоўская і Павалоцкая акругі, Падолле засталося ў туркаў. У выніку новай вайны з Турцыяй 1683–99 Падолле і частка Правабярэжнай Украіны вернуты Польшчы. *«Вечны мір» 1686* паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй замацоўваў дзярж. граніцу паміж краінамі (Кіеў і Смаленск пакідаліся Расіі) і ствараў умовы для сумесных дзеянняў супраць Турцыі і Крымскага ханства. Аднак тлумачэнне 9-га артыкула дагавора рас. бокам, дзе гаварылася, што правасл. цэрквам, манастырам і брацтвам «ніякага ўціску і да веры рымскай і да уніі прымусу» не будзе, давала царскаму ўраду права пастаянна ўмешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай на працягу 18 ст. Гэты дагавор быў сустрэты непрыхільна і ратыфікаваны толькі ў 1710, калі рас. войскі знаходзіліся на тэр. Рэчы Паспалітай. Пасля выбрання каралём Яна Сабескага Пацы ўзначалілі супраць яго апазіцыю. Ян Сабескі падтрымаў Сапегаў і Агінскіх, якія выступалі супраць Пацаў. Сапегі атрымалі ад караля высокія пасады. Умацаваўшы сваё становішча, яны выступалі супраць караля, маючы намер узначаліць самастойнае ВКЛ. Сваю палітыку Сапегі праводзілі феад. мерамі, з гвалтам і задушэннем апазіцыі, і прайгралі. Супраць Сапегаў у 1697 пачалася адкрытая барацьба бел. і літ. шляхты, якую ўзначаліў вял. харужы ВКЛ Р.Агінскі (гл. *Феадальная вайна 1697–1702*). Выкарыстаўшы смерць Яна Сабескага (17.6.1696), Агінскі падтрымаў прэтэнзіі на трон сям'і Сабескіх. Утварылася канфедэрацыя. Шляхце ВКЛ удалося правесці на элекцыйным сойме 25.6.1697 канчатковае ўраўнаванне яе правоў з правамі польскай шляхты (гл. *«Ураўнаванне правоў» 1697*). Гэтай жа пастановай замест афіцыйнай бел. мовы ў дзярж. установах ВКЛ уводзілася польская мова. Каралём польскім і вял. князем літоўскім быў выбраны *Аўгуст II* Моцны [1697–1733], курфюрст Саксоніі, падтрыманы Расіяй і Аўстрыяй. Ён імкнуўся прымірыць варожыя бакі на Беларусі, але канфлікт паміж Сапегамі і большай часткай шляхты («рэспубліканцамі») набыў характар адкрытай вайны. 18.11.1700 пад Алькенікамі (каля Вільні) у рашаючай бітве атрады шляхты разбілі войскі Сапегаў. Прыхільнікі караля на чале з Агінскім прапанавалі праект аддзялення ВКЛ ад Польшчы і стварэння спадчыннай манархіі для Аўгуста II і яго нашчадкаў. Гэта скарыстаў Аўгуст II і ўвёў у ВКЛ саксонскія войскі для «прымірэння бакоў», а таксама быццам бы для аховы гэтых земляў ад шведаў.



Аўгуст II. Мастак А.Р.Менгс. 1745.

Аўгуст II уступіў у *Паўночную вайну 1700–21* як саюзнік цара Пятра I у якасці курфюрста Саксоніі, Рэч Паспалітая спачатку ў вайне ўдзелу не прымала. Пасля разгрому рас. арміі пад Нарвай у ліст. 1700 шведскі кароль Карл XII накіраваў свае войскі і ў межы Рэчы Паспалітай, у пач. 1702 яны разрабавалі Вільню і Гародню з навакольнымі вёскамі і мястэчкамі, потым пайшлі ў Польшчу. У ВКЛ працягвалася барацьба паміж большай часткай шляхты і Сапегамі, якія перайшлі на бок шведаў. Сапегі арганізавалі казацка-сялянскія атрады на чале з Юрэвічам, Більдзюкевічам і Хмарай, што дзейнічалі ва ўсх. частцы Беларусі (Дуброўна, Галоўчын, Быхаў), пакуль не былі разбіты ў лют. 1702. Прадстаўнікі шляхты ў 1702 падпісалі дагавор з Расіяй, паводле якога Пётр I абяцаў ваенную і грашовую дапамогу

ВКЛ. Скліканая вясной 1703 генеральная канфедэрацыя ВКЛ абвясціла саюз з Расіяй. У Польшчы была створана *Сандамірская канфедэрацыя* супраць шведаў. Карл XII арганізаваў канфедэрацыю, якая 13.7.1704 выбрала каралём польскім і вял. князем літоўскім пазнанскага ваяводу *Станіслава* Ляшчынскага. Увосень 1704 60-тысячная рас. армія пад камандаваннем А.І.Рапніна ўступіла ў Беларусь, да лета 1705 частка арміі заняла Гародню, другая частка размясцілася каля Менска. Карл XII вярнуўся з Польшчы і ўзяў у аблогу Гародню, але рас. войску ў сак. 1706 удалося вырвацца з Гародні і праз Берасце адысці ў Кіеў. Шведскае войска разам з атрадамі К.Я.П.Сапегі прайшло па цэнтр. Беларусі, руйнуючы маёнткі шляхты. Пацярпеўшы паражэнне, Аўгуст II паводле ўмоў Альтранштацкага дагавора 1706 адмовіўся ад кароны на карысць Станіслава Ляшчынскага, на бок якога перайшлі магнаты Радзівілы, Пацы, Вішнявецкія і частка шляхты. Аднак Сандамірская канфедэрацыя і канфедэрацыя ВКЛ не прызналі гэтага дагавора, іх падтрымліваў Пётр І. У студз. 1708 шведскія войскі зноў уступілі на Беларусь, занялі Гародню і рушылі на Смаргонь. У ноч на 15.7.1708 каля мяст. Галоўчын (Аршанскі пав.) адбылася бітва паміж рас. і шведскімі войскамі, у выніку якой корпус Рапніна быў разбіты, а сам ён разжалаваны ў радавыя салдаты. 9.10.1708 каля в. Лясная армія Пятра І разграміла шведскі корпус графа А.Левенгаўпта. Пасля перамогі рас. войск пад Палтавай 8.7.1709 ваенныя дзеянні на тэр. Беларусі адбываліся паміж рас. войскамі і канфедэратамі і прыхільнікамі Станіслава Ляшчынскага. Аўгуст II вярнуўся ў Польшчу і зноў заключыў саюз з Пятром І. Вайна прычыніла вял. страты Беларусі, шмат якія гарады былі спалены, колькасць насельніцтва зменшылася (з 2,2 млн. чал. да вайны да 1,5 млн. пасля вайны). Неўзабаве пасля вяртання Аўгуста II на Беларусі пачалася барацьба паміж прыхільнікамі Л.К.Пацея, які фактычна сканцэнтраваў у сваіх руках уладу ў ВКЛ, і прыхільнікамі караля на чале з польным гетманам С.Э.Дэнгафам. Пацея падтрымлівалі Агінскія і інш. магнаты,




Станіслаў Ляшчынскі. Гравюра Ё.Стэнгліна паводле карціны Д.Клейна. Канец 18 ст.



Баталія каля вёскі Лясная 1708. Гравюра Н.Лармісена з карціны Д.Мартэна–малодшага. 1722–1724.

караля – Расія і Прусія. Створаная ў 1716 *Віленская канфедэрацыя* выступіла супраць абсалютысцкіх планаў караля. Аднадзённы «нямы» сойм 1.2.1717 абмежаваў уладу караля і гетманаў, пацвердзіў права «ліберум вета», польская армія скарачалася да 18 тыс. чал., войска ВКЛ – да 6 тыс. чал. 1.2.1733 памёр Аўгуст II, 12.9.1733 шляхта выбрала каралём польскім і вял. князем літоўскім Станіслава Ляшчынскага, стаўленіка Францыі, але гэта не адпавядала інтарэсам Расіі. На тэр. Рэчы Паспалітай былі ўведзены рас. войскі, рас. вайскоўцы і дыпламаты арганізавалі новыя выбары, і 5.10.1733 новым каралём польскім і вял. князем літоўскім быў выбраны *Аўгуст III* [1733–63], курфюрст Саксоніі, сын Аўгуста II. У час яго кіравання адбывалася далейшае паглыбленне паліт. крызісу Рэчы Паспалітай, соймы пастаянна зрываліся, што паралізавала дзейнасць цэнтр. улады. Пасля рэформы рас. правасл. царквы і царкоўнага расколу ў раёне Веткі пасялілася шмат рас. стараабраднікаў. У 1735 па загадзе рас. імператрыцы Ганны Іванаўны 5 палкоў рас. войск гвалтоўна ўварваліся на Беларусь, манастыры, цэрквы і жылыя будынкі стараабраднікаў былі спалены, а больш за 13 тыс. чал. выселены ў Сібір, у 1764 па загадзе Кацярыны II акцыя паўтарылася, у Сібір былі выселены 20 тыс. стараабраднікаў. У сярэдзіне 18 ст. адбыўся шэраг сял. хваляванняў у Беларусі і Літве (*Крычаўскае паўстанне 1743–44*, *Камянецкае паўстанне 1754–56*, *Шаўліскае паўстанне 1769*). Сял. рух на Пд Беларусі быў звязаны з паўстаннем гайдамакаў на Правабярэжнай Украіне.



Абраз Маці Божай. Веткаўская школа. 18 ст.

Пасля смерці Аўгуста III па прапанове Кацярыны II апошнім каралём польскім і вял. князем літоўскім быў выбраны *Станіслаў Аўгуст* Панятоўскі [1764–95], які пачаў праводзіць палітыку памяркоўных рэформ дзярж. ладу, што выклікала незадаволенасць Расіі і Прусіі. Карыстаючыся правамі абароны праваслаўных у Рэчы Паспалітай, Кацярына II і прускі кароль Фрыдрых II, які да яе далучыўся, выставілі праект ураўнавання ў правах шляхты – дысідэнтаў (некатолікаў) з каталіцкай шляхтай, але сойм адхіліў гэты праект. Тады рас. войскі былі зноў уведзены ў Рэч Паспалітую. Пры падтрымцы рас. пасла М.В.Рапніна дысідэнты ў 1767 стварылі пратэстанцкую канфедэрацыю ў Торуні і кальвіністка-праваслаўную *Слуцкую канфедэрацыю*, якія імкнуліся ўраўнаваць правы дысідэнцкай шляхты з каталіцкай. Канфедэраты адразу ж былі прыняты пад пратэкцыю Кацярыны II, якая прыслала ім на дапамогу 40-тысячную армію. Сойм пад націскам Расіі ў 1768 згадзіўся прыняць пастанову аб ураўнаванні правоў некаталіцкай шляхты з каталіцкай. Былі зацверджаны *Кардынальныя правы*, якія захоўвалі выбарнасць караля, права «ліберум вета», пануючае становішча шляхты. Кардынальныя правы, якія спынілі правядзенне рэформ, былі ўключаны ў *дагавор 1768* з Расіяй. Такім чынам, Кацярына II станавілася гарантам неправядзення рэформ у Рэчы Паспалітай. Патрыятычна настроеная шляхта і праціўнікі прадастаўлення правоў некатолікам арганізавалі *Барскую канфедэрацыю*, якая выступіла за цэласнасць і незалежнасць дзяржавы. Атрады канфедэратаў дзейнічалі ў Берасцейскім і Мсціслаўскім ваяводствах, Ашмянскім, Аршанскім, Браслаўскім і Ваўкавыскім паветах. У кастр. 1768 рас. войскі разграмілі канфедэратаў пад Дзярэчынам (Слонімскі пав.) і занялі Нясвіжскую і Слуцкую крэпасці. У 1769 атрад канфедэратаў перамог рас. войскі пад Бераставіцай, Слонімам, Мышшу. У чэрв. 1770 з Літвы на Беларусь перайшоў атрад Ш.Касакоўскага, ён дзейнічаў у раёне Мядзела, Радашковіч, Менска. Зноў узнялася на барацьбу шляхта ў Ашмянскім і Браслаўскім паветах, у Мсціслаўскім і Полацкім ваяводствах. Неўзабаве атрад Касакоўскага быў разбіты пад Навагародкам. У вер. 1771 на бок канфедэратаў перайшоў вял. гетман ВКЛ М.К.Агінскі, але яго 3-тысячны атрад быў разбіты А.В.Суворавым пад Сталавічамі. Разгром барскіх канфедэратаў даў магчымасць суседнім дзяржавам прыступіць да *першага падзелу Рэчы Паспалітай*. 5.8.1772 у Пецярбургу была падпісана сакрэтная канвенцыя паміж Расіяй і Прусіяй,



Міхал Казімір Агінскі, вялікі гетман ВКЛ з 1768. Копія партрэта, прыпісанага А.Каўфман. 1791.



Цырыманіяльны меч караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. 1764.


22°
24°
26°
28°
56°
54°
52°
БАЛТЫЙСКАЕ МОРА
КУРЛЯНДСКАЕ І ЗЕМГАЛЬСКАЕ ГЕРЦАГСТВА
ЖАМОЙЦКАЕ КНЯСТВА
ІНФЛЯНЦКАЕ КНЯСТВА
РАСІЯ
КАРАЛЕЎСТВА ПРУСІЯ
РЭЧ ПАСПАЛІТАЯ
ПОЛАЦК
РЫГА
МІТАВА
ЛІБАВА
МЕМЕЛЬ
ТЫЛЬЗІТ
ІНСТЭРБУРГ
АНГЕРБУРГ
ДЫНАБУРГ
ШАЎЛІ
УПІТА
РАСЕЙНЫ
ВІЛЬКАМІР
КОЎНА
ВІЛЬНЯ
ТРОКІ
АШМЯНЫ
БРАСЛАЎ
ГАРОДНЯ
ЛІДА
НАВАГАРОДАК
МЕНСК
СЛОНІМ
ВАЎКАВЫСК
БЕЛАСТОК
БЕРАСЦЕ
ПІНСК
ЛЮБЛІН
СЕДЛЬЦЫ
ВЕНГРАЎ
ЛОМЖА
ГАНЯЗЬ
АЎГУСТАЎ
ПАРЧАЎ
АПОЧКА
Нямунас
Даўгава
Прыпяць
Буг
Нараў
Вісла
Вілія
Бярэзіна
Гаўя
Ясельда
Горынь
Стыр
Стаход
Случ




## НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

**ПАВОДЛЕ АДМІНІСТРАЦЫЙНАГА ЗНАЧЭННЯ**

- Сталіца Вялікага княства Літоўскага
- Сталіца Курляндскага і Земгальскага герцагства
- Цэнтры ваяводстваў Вялікага княства Літоўскага
- Цэнтры паветаў Вялікага княства Літоўскага

**ПАВОДЛЕ ТЫПУ ПАСЕЛІШЧА**

| | |
|---|---|
| МЕНСК | Гарады |
| Койданава | Мястэчкі |
| *Халопенічы* | Вёскі |

Тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага ў сярэдзіне XVIII ст.

**ГРАНІЦЫ ў сярэдзіне XVIII ст.**

- дзяржаў
- Рэчы Паспалітай
- Вялікага княства Літоўскага
- межы ваяводстваў і паветаў Вялікага княства Літоўскага

Граніцы падзелаў Рэчы Паспалітай

- першага падзелу (1772 г.)
- другога падзелу (1793 г.)
- трэцяга падзелу (1795 г.)

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Паштовыя і гандлёвыя дарогі

**МАШТАБ 1:3 000 000**

Аўтар карты Я.К.Анішчанка



Тадэвуш Рэйтан на сойме 1773. Карціна Я.Матэйкі. 1866.

да якой пазней далучылася Аўстрыя. Прусія атрымала паўн.-зах. частку Польшчы, Аўстрыя – паўд. частку Польшчы і большую частку зах. Украіны са Львовам. Расіі адышлі тэрыторыі, якія яна намагалася ўзяць яшчэ ў 1763 – землі ўсх. і паўн. Беларусі да Дзвіны, Друці і Дняпра, а таксама Інфлянцкае ваяводства.

Ва ўмовах акупацыі тэр. дзяржавы рас. і прускімі войскамі адбыўся *сойм 1773–75*, на якім быў зацверджаны 1-ы падзел Рэчы Паспалітай. Адначасова былі праведзены некат. рэформы. У 1773 створана *Адукацыйная камісія*, у 1775 – Пастаянная Рада (урад) на чале з каралём, якую абраў сойм. У 1770–80-я г. ўрад Рэчы Паспалітай правёў некаторыя рэформы, накіраваныя на паляпшэнне гандлю і прававога становішча гараджан, развіццё прамысловасці. Патрыятычныя колы правялі на *Чатырохгадовым сойме 1788–92* некалькі хоць і палавінчатых, але наспелых рэформ. У 1791 сойм змяніў адм. падзел у дзяржаве (з 34 паветаў ВКЛ 20 было на тэр. Беларусі). Была прынята *Канстытуцыя 3 мая 1791*, якая захавала правы і прывілеі шляхты, аднак падкрэслівала неабходнасць збліжэння яе з мяшчанствам. Сялянскае саслоўе абвяшчалася пад заступніцтвам закона, але пры існаванні дагавору сялян з панам прыгоннае права не адмянялася. «Ліберум вета» і канфедэрацыі скасоўваліся, усе рашэнні на сойме павінны былі прымацца большасцю галасоў. Канстытуцыя абвяшчала ўтварэнне унітарнай дзяржавы, аднак у ВКЛ захоўваліся асобныя дзярж. пасады, працягвала існаваць асобнае войска. У склад войска ВКЛ былі ўключаны войскі магнатаў. Канстытуцыя мела прагрэсіўны характар, яна ліквідавала феад. анархію і стварала спрыяльныя ўмовы для развіцця капіталістычных адносін. Рэакцыйныя колы магнатаў, якіх падтрымала беззямельная шляхта, што была пазбаўлена выбарчых правоў, звярнуліся да Кацярыны II з просьбай аб дапамозе ў барацьбе супраць Канстытуцыі 3 мая. У Пецярбургу пад наглядам імператрыцы 27.4.1792 быў складзены акт канфедэрацыі, і да граніцы з Рэччу Паспалітай перакінуты рас. войскі. Калі акт *Таргавіцкай канфедэрацыі* быў апублікаваны ў пагранічным мяст. Таргавіца на Украіне, адразу група канфедэратаў разам з рас. войскамі перайшла граніцу Рэчы Паспалітай (Прусія таксама ўвяла свае войскі). У ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* на працягу мая-ліпеня былі заняты Браслаў, Ушачы, Бабруйск, Нясвіж, Навагародак, Слонім і Гародня. Баі адбываліся каля Опсы (пад Браславам), каля Міра 10–11.6.1792 быў



Прыняцце соймам Канстытуцыі 3 мая 1791. Малюнак Я.П.Норбліна.



Абвяшчэнне Канстытуцыі 3 мая 1791. Карціна Я.Матэйкі. 1891.

разбіты корпус Ю.Юдзіцкага, 4 ліп. адбылася бітва пад Зэльвай, 10 ліп. – пад Мсцібавам. Пасля бітвы пад Берасцем (23 ліп.) войска ВКЛ адступіла за Буг, 24 ліп. да Таргавіцкай канфедэрацыі далучыўся кароль. У пач. верасня абедзве канфедэрацыі ў падтрымку Таргавіцкай (польская і ВКЛ) аб'ядналіся. Канстытуцыя і інш. рэформы Чатырохгадовага сойма адмяняліся. Таргавіцкая канфедэрацыя фактычна падрыхтавала *другі падзел Рэчы Паспалітай*. 23.1.1793 у Пецярбургу была падпісана новая канвенцыя паміж Расіяй і Прусіяй. Апошняя атрымала зах. частку польскіх земляў з гарадамі Познань, Торунь, Плоцк і Каліш. Расія ўзяла сабе цэнтр. частку Беларусі з гарадамі Барысаў, Менск, Бабруйск, Слуцк, Пінск і Мазыр, а таксама Правабярэжную Украіну. У Рэчы Паспалітай засталася частка польскіх земляў, зах. Беларусь, Валынь, Падляшша, Літва і Курляндыя. *Гарадзенскі сойм 1793* прыняў рашэнне аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. Асн. маса магнатаў, шляхты і духавенства прысягнулі Кацярыне II, аднак патрыятычныя колы шляхты і мяшчан, шматлікая дробная шляхта, прагрэсіўнае афіцэрства і духавенства зрабілі спробу захаваць незалежнасць дзяржавы, вярнуць страчаныя тэрыторыі і працягваць прагрэсіўныя рэформы.

Прысяга Тадэвуша Касцюшкі на Кракаўскім рынку 24 сакавіка 1794. Мастак М.Стаховіч. Пач. 19 ст.

24.3.1794 на кракаўскім рынку быў абвешчаны акт *паўстання 1794*, начальнікам якога стаў генерал Т.*Касцюшка*, па паходжанні бел. шляхціц з Берасцейскага пав. У красавіку да паўстання далучыліся Літва і Беларусь. 16.4.1794 у Шаўлях паднялі паўстанне часці войска ВКЛ, у ноч на 23 крас. паўстанне пачалося ў Вільні, тут дзейнічала тайная паўстанцкая арганізацыя – т.зв. *«віленскія якабінцы»*. 23 крас. ўтворана *Найвышэйшая Літоўская рада* – рэвалюцыйны ўрад Літвы і зах. Беларусі. Спачатку паўстанне мела некаторы поспех, 28 крас. ў Гародні было створана мясц. кіраванне, у крас.– маі ўстаноўлена паўстанцкая ўлада ў Берасці, Ваўкавыску, Слоніме, Навагародку, Пінску, Ашмянах, Кобрыне, Лідзе, Браславе. У маі да паўстання далучылася значная частка шляхты, вял. падскарбі ВКЛ М.К.Агінскі далучыўся да паўстання разам з узброеным пяхотным палком. Сяляне верылі Найвышэйшай радзе, якая абя-



цала скасаваць прыгон, прымалі ўдзел у паўстанні або дапамагалі паўстанцам. 7.5.1794 *Паланецкім універсалам* Касцюшка абвясціў сялян свабоднымі, але зямлю пакідаў панам, ператвараючы сялян у арандатараў. Асн. маса заможнай шляхты сабатавала гэты універсал, што адштурхнула сялян ад паўстання. У Літве і зах. Беларусі рас. генералы абвясцілі амністыю сялянам-паўстанцам, каб адцягнуць іх ад паўстання. Ім таксама абяцалі перадаць маёнткі паноў – удзельнікаў паўстання. Сялянскіх рух і тут паменшаў. Акрамя таго, паміж Касцюшкам і Найвышэйшай Літоўскай радай, больш радыкальнай, чым *Найвышэйшая нацыянальная рада* ў Варшаве, узніклі супярэчнасці. Касцюшка абвінаваціў Раду ў дзеяннях супраць «уніі братніх народаў», распусціў яе і ўтварыў *Цэнтральную дэпутацыю Вялікага княства Літоўскага*, якая складалася з больш памяркоўных элементаў (са жніўня да кастрычніка знаходзілася ў Гародні). У чэрв.-жн. 1794 найбольш актыўныя дзеянні адбываліся на Гарадзеншчыне і Віленшчыне. 25.6.1794 войска ВКЛ пацярпела паражэнне пад Соламі (Ашмянскі пав.), рас. войскі авалодалі ініцыятывай. У жніўні атрад С.Грабоўскага прабіўся ў Менскую губ., але ў час *Любанскага бою 1794* быў разбіты і капітуляваў. Разгром паўстання на Беларусі давяршыў корпус Суворава (12 тыс. чал.), які нанёс паражэнне 17 вер. корпуса К.Серакоўскага і атраду К.Князевіча (5 тыс. чал.) у час *Крупчыцкага бою 1794*. Для мабілізацыі шляхты і мяшчан 30 вер. ў Гародню прыбыў Касцюшка, тут было сфарміравана новае войска, але лёс паўстання быў прадвырашаны. 10 кастр. Сувораў нанёс паражэнне паўстанцам у *Мацяёвіцкай бітве 1794*, дзе паранены Касцюшка трапіў у палон. Паўстанне 1794 скончылася паражэннем, Рэч Паспалітая была акупіравана рас., прускімі, потым і аўстрыйскімі войскамі. 24.10.1795 у Пецярбургу была падпісана канвенцыя аб *трэцім падзеле Рэчы Паспалітай*. Расія далучыла да сваіх уладанняў землі зах. Беларусі, частку Літвы (на Пн ад Нёмана) і Курляндыю. Мазовія з Варшавай, Падляшша (з Беластокам і Бельскам) і частка Літвы (на Пд ад Нёмана) былі аддадзены Прусіі. Аўстрыя атрымала Малую Польшчу з Кракавам і Люблінам і паўд. частку Падляшша, а таксама зах. частку Берасцейскага ваяводства. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі 25.11.1795 адмовіўся ад трона і быў пераведзены ў Гародню. Федэратыўная дзяржава Рэч Паспалітая і абедзве краіны ў яе складзе – ВКЛ і Польшча – спынілі сваё дзярж. існаванне. ВКЛ было канчаткова далучана да Рас. імперыі.





Варшава ў 1794. Малюнак Я.П.Норбліна.

*Літ.*: Антонович В.Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV ст. Вып. 1. Киев, 1878; Дашкевич Н. Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885; Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego, 1385–1795. Kraków, 1885; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887; Владимирский-Буданов М.Ф. Очерки из истории литовско-русского права. [Ч.] 1–2. Киев, 1889–90; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Ист. очерки. [М., 1892]; Яго ж. Литовско-русский сейм. М., 1900; Яго ж. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Яго ж. История Белоруссии. Мн., 2003; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586). Т. 1. СПб., 1901; Максимейко Н.А. Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902; Малиновский И. Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Ч. 2, вып. 2. Томск, 1912; Грушевский А.С. Города В. Княжества Литовского в XIV–XVI вв.: Старина и борьба за старину. Киев, 1918; Halecki O. Dzieje unii Jagiellońskiej. T. 1–2. Kraków, 1919–20; Kutrzeba S. Historja ustroju Polski w zarysie. T. 2. 2 wyd. Lwów; Warszawa, 1921; Łowmiański H. Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1–2. Wilno, 1931–32; Яго ж. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983; Пресняков А.Е. Лекции по русской истории: (читанные автором в 1908–1910 гг.). Т. 2, вып. 1. Западная Русь и Литовско-Русское государство. М., 1939; Похи-

л е в и ч Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957; Я г о ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века. Вильнюс, 1966; П и ч е т а В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Яго ж. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961; П а ш у т о В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959; D u n d u l i s B. Lietuvių kova dėl Žemaitijos ir Užnemunes XV amžiuje. Vilnius, 1960; Я г о ж. Lietuvos kova dėl valstybinio savarankiškumo XV amžiuje. 2 leid. Vilnius, 1993; J u r g i n i s J. Baudžiavos įsigalėjimas Lietuvoje. Vilnius, 1962; Г р е к о в И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963; M o r z y J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965; К о п ы с с к и й З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI–первой половине XVII в. Мн., 1966; Я г о ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI–первой половине XVII в. Мн., 1975; 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Г р и н б л а т М. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968; J u č a s M. Lietuvos metraščiai. Vilnius, 1968; К о з л о в с к и й П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в.: (по материалам магнатских вотчин). Мн.,1969; Я г о ж. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в.: (центральная и западная зоны). Мн., 1974; Я г о ж. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII–первой половине XIX в. Мн., 1982; Ч а м я р ы ц к і В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969; П о д о к ш и н С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы: (Вторая половина XVI–начало XVII в.). Мн., 1970; B a r d a c h J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII wieku. Białystok; Warszawa, 1970; Я г о ж. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; М а л ь ц е в А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974; Г р и ц к е в и ч А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв.: (Социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975; Я г о ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI–XVIII вв.). Мн., 1979; Ю х о И.А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Я г о ж. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992; Т к а ч о ў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх земляў Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978; Я г о ж. Замки Белоруссии. Мн., 1987; Я г о ж. Замкі і людзі. Мн., 1991; K o s m a n M. Historia Białorusi. Wrocław etc., 1979; Г р ы ц к е в і ч В.П., М а л ь д з і с А.І. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980; У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. Мн., 1985; Ш а б у л ь д о Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987; Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. давед. Мн., 1988; Франциск Скорина – белорусский гуманист, просветитель, первопечатник. Мн., 1989; A l e x a n d r o w i c z S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989; O c h m a ń s k i J. Historia Litwy. 3 wyd. Wrocław etc., 1990; І г н а т о ў с к і У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. 5 выд. Мн., 1991; K o l a n k o w s k i L. Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne. 3 wyd. Olsztyn, 1991; Г о л у б е ў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі ў XVI–XVIII стст. Мн., 1992; Л а с т о ў с к і В.Ю. Кароткая гісторыя Беларусі. 2 выд. Мн., 1992; Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім: Стэнаграма пасяджэнняў Міжнароднага круглага стала… Мінск, 6–7 крас. 1992 г. Мн., 1992 (Беларусістыка); Н а с е в і ч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993; Н а й д з ю к Я., К а с я к І. Беларусь учора і сяньня. Мн., 1993; Г р у ш е в с ь к и й М. Історія України-Руси. Т. 3–4. 2 вид. Київ, 1993; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994; С а г а н о в і ч Г. Невядомая вайна, 1654–1667. Мн., 1995; Я г о ж. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мн., 2001; K i a u p a Z., K i a u p i e n ė J., K u n c e v i č i u s A. Lietuvos istorija iki 1795 metų. Vilnius, 1995; Р у с и н а О.В. Україна під татарами і Литвою. Київ, 1998; G u d a v i č i u s E. Lietuvos istorija. T. 1 Nuo seniausių laikų iki 1569 metų.Vilnius, 1999; К р а ў ц э в і ч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. 2 выд. Rzeszów, 2000; Е р м а л о в і ч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і навагародскі перыяды. 2 выд. Мн., 2001; Я г о ж. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. 2 выд. Мн., 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

## тэрыторыя, адміністрацыйны падзел

Ядро ВКЛ утварылася ў сярэдзіне 13 ст. як паліт. аб'яднанне 3 зямель: уласна Літоўскай (плошча каля 64 тыс. км²), Жамойцкай (27 тыс. км²) і Навагародскай (з Гародняй, Ваўкавыскам, Слонімам, 23 тыс. км²). Гэтае першапачатковае ядро дзяржавы ахоплівала каля 114 тыс. км², прычым да 80% займала балцкае, рэшту – усходнеслав. («рускае») насельніцтва. На працягу 2-й пал. 13–1-й пал. 14 ст. да яго далучыліся Полацкае, Віцебскае, Таропецкае, Менскае, Свіслацкае, Пінскае і інш. княствы агульнай плошчай каля 136 тыс. км², а таксама частка Валыні з Берасцейшчынай (56 тыс. км²). У адрозненне ад Навагародчыны, на якую пазней пашырылася назва «Літва», яны захавалі назву «Русь». Гэтая двухчасткавасць дзяржавы абумовіла тытулатуру Гедзіміна і яго спадкаемцаў як «гаспадароў Літвы і Русі». У сярэдзіне 14 ст. каля 2/3 тэрыторыі дзяржавы займала «рускае» насельніцтва, каля 1/3 – балцкае. У 1345 Альгерд і Кейстут падзялілі паміж сабой ВКЛ на Віленскую і Троцкую паловы (пад вярхоўнай уладай Альгерда). Альгерду, а потым яго нашчадкам падпарадкоўваліся Вільня з усх. паловай сучаснай Літвы, на Беларусі – Віцебск, Лагойск, Менск, Полацк, Слуцк, пазней – Кобрын і Мсціслаў. У Троцкую палову Кейстута і яго нашчадкаў увайшлі Жамойць, Коўна, Берасце, Ваўкавыск, Гародня, Камянец, Навагародак, Слонім. Былое Свіслацкае княства з Бабруйскай і Любашанскай валасцямі было падзелена паміж Віленскай і Троцкай паловамі. У сярэдзіне 14 ст. ВКЛ ахоплівала больш за 300 тыс. км², пры гэтым першапачатковае ядро («палітычная Літва») займала каля 38%, а ўласна Літва з Жамойцю («этнічная Літва») – менш як 30% яго тэрыторыі. Знешнія межы яшчэ былі нестабільныя. У 1349 на карысць Польшчы страчана частка Валыні (Белз, Холм, Уладзімір), ненадоўга вернутая ў 1352, але зноў страчаная ў 1366. У 1351–66 Дарагічынская зямля належала Мазавецкаму княству (васалу Польшчы). З 1370 Уладзімірскі і Крамянецкі паветы замацаваліся ў складзе ВКЛ. Адначасова на працягу 1350–60-х г. адбылося істотнае павелічэнне тэр. ВКЛ на У: вял. кн. Альгерд, карыстаючыся аслабленнем Залатой Арды, падпарадкаваў частку Смаленскай (з Мсціславам, Белым і Ржэвам), Чарнігава-Северскую, Кіеўскую і Падольскую землі. З іх зах. частка Падолля ў 1366 адышла да Польшчы, Ржэўская воласць належала ВКЛ толькі часова (да 1357, у 1359–67, 1371–81). Тэр. ВКЛ дасягнула 630 тыс. км², доля «палітычнай» Літвы знізілася да 18%, а этнічнай – да 14%. Альгерд непасрэдна кантраляваў 10–15% тэрыторыі, яго фактычны суправіцель Кейстут – прыкладна столькі ж, а 70–75% складалі ўдзелы і вотчыны інш. князёў. Большасць стараж. валасцей захаваліся як адм. адзінкі, яны былі часткова пераразмеркаваны ва ўдзелы Гедзімінавічаў (Гарадзенскае, Віцебскае, Заслаўскае, Мсціслаўскае, Навагародскае, Пінскае, Полацкае, Слуцкае княствы)



Пагранічны слуп з гербамі ВКЛ і Прусіі 1545 каля в. Богушы.




Карта Цэнтральнай Еўропы з атласа С.Мюнстэра «Cosmographia Universalis». Базель. 1572.

ці вотчыны мясц. княжацкіх дынастый (Гарадзецкае, Друцкае, Лукомскае); некат. значныя воласці (Берасцейская, Барысаўская, Ваўкавыская, Лагойская, Менская, Слонімская і інш.) кіраваліся намеснікамі вял. князя. У канцы 1360-х г. дробныя княствы на ўсх. памежжы (Вяземскае, Казельскае, Навасільскае) знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад Альгерда, якая скончылася пасля 1371.

У выніку міжусобіц 1380-х г. у ВКЛ Ратненскае княства на Валыні часова перайшло ў васальную залежнасць да караля Польшчы і Венгрыі, Жамойць у 1384 трапіла пад кантроль Тэўтонскага ордэна, Дарагічынская зямля ў 1390 – пад кантроль Мазовіі. Пасля 1392 вял. кн. Вітаўт аднавіў працэс пашырэння тэрыторыі: у 1396 была далучана рэшта Смаленскай зямлі (часова аднавіла незалежнасць у 1401–04), да 1408 (у 1390-я г.?) вернута Дарагічынская зямля, у 1410 – Жамойць, у 1413 – Зах. Падолле. На правабярэжжы Дняпра ўлада ВКЛ пашыралася на стэпавы абшар да Чорнага мора, але гэтая тэрыторыя заставалася амаль незаселенай. У гэты ж час адбыліся істотныя змены ў адм. структуры. Вітаўт далучыў да велікакняжацкага дамена былыя ўдзелы Кейстутавічаў (Трокі, Гародня, Берасце і інш.), ліквідаваў удзелы ў Віцебску, Кіеве, Навагародку, Полацку, Смаленску, Чарнігаве і замяніў мясц. князёў сваімі намеснікамі. Краіна падзялялася на судова-адм. акругі (княствы і намесніцтвы), межы якіх не былі вызначаны заканадаўча, а гістарычна склаліся ў мінулым. На тэр. Беларусі было каля 20 княстваў і намесніцтваў, якія з'яўляліся асн. адм.-тэр. адзінкамі. Яны падзяляліся на больш дробныя воласці, якія паступова распадаліся ў працэсе падаравання земляў феадалам. Да 1427 у склад ВКЛ увайшлі Вярхоўскія княствы (Адоеў, Карачаў, Масальск і інш.), а таксама Вяземскае княства, з мясц. князямі на чале. На месцы былога Навасільскага княства, запусцелага ў выніку татарскіх нападаў, утварыліся Любуцкае, Мцэнскае, Тульскае намесніцтвы. У 1420-я г. ВКЛ дасягнула свайго максімальнага пашырэння – каля 687 тыс. км$^2$ (без уліку прычарнаморскіх стэпаў). Пры гэтым тэрыторыя сучаснай Літвы займала каля 10%, сучаснай Украіны – 33%, Расіі – 23%, Падляшша – 1,8%, Беларусі – каля 30% (доля Беларусі ў этнагр. межах 19 ст., са Смаленшчынай і Падляшшам, дасягала 38%). *Феадальная вайна 1432–39* прывяла да страты Тульскай воласці на карысць Разанскага княства і Зах. Падолля на карысць Польшчы. У 1447–48 да Польшчы канчаткова адышлі Ратненская і Мяджыбажская воласці, пасля чаго заходняя граніца ВКЛ стабілізавалася да 1569. Пры гэтым Усх. Падолле, якое засталося ў ВКЛ і адміністрацыйна

адносілася да Валынскай зямлі, апынулася тэрытарыяльна адасобленым ад яе. Пад уплывам Польшчы на працягу 15 ст. намесніцтвы пачалі называцца паветамі, не раздадзеныя ў прыватную ўласнасць воласці – старaствамі ці дзяржавамі. Акрамя таго, захоўваўся традыц. падзел ВКЛ на Віленскую і Троцкую часткі (з 1413 сталі называцца ваяводствамі). У ваен. і часткова падатковых адносінах Гарадзецкае, Клецкае, Кобрынскае, Пінскае княствы, Берасцейскае, Ваўкавыскае, Гарадзенскае, Камянецкае, Навагародскае, Слонімскае намесніцтвы падпарадкоўваліся намесніку (з 1413 – ваяводу) троцкаму; Друцкае, Мсціслаўскае, Слуцкае княствы, Ашмянскае, Крэўскае, Лагойскае, Лідскае намесніцтвы – ваяводу віленскаму. Полацкая зямля з Лукомскім княствам, Віцебская з Аболецкім, Аршанскім і, магчыма, Магілёўскім намесніцтвамі, Кіеўская з Мазырскім намесніцтвам утваралі асобныя ваен. і судовыя акругі. Пасля 1440 Віцебская, Жамойцкая, Кіеўская і Полацкая землі атрымалі адм.-тэр. і судовую аўтаномію, якая праіснавала да сярэдзіны 16 ст. У 1440–70 было адноўлена Кіеўскае княства. Буйныя княжацкія вотчыны існавалі на Валыні і ў Чарнігаўскай зямлі. З 2-й пал. 15 ст. Азярышчанская і Усвяцкая воласці Віцебскай зямлі, шэраг т.зв. «рускіх» валасцей у Падняпроўі кіраваліся намеснікамі вял. князя, а Абольцы, Заслаўе, Лагойск да пач. 16 ст. фактычна страцілі статус намесніцтваў і ператварыліся ў прыватнаўласніцкія або дзярж. маёнткі. Адметнай рысай Друцкага і Лукомскага княстваў з'яўлялася іх сумесная прыналежнасць да моцна разгалінаваных княжацкіх родаў.

У выніку памежных канфліктаў 1486–92 і *вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1492–94* былі страчаны Адоеўскае, Вяземскае, Казельскае, Мезецкае княствы, у выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1500–03* – Бельскі, Таропецкі, Дарагабужскі паветы Смаленскай зямлі, шэраг ускраінных валасцей Полацкай і Віцебскай земляў, Бранскае, Ноўгарад-Северскае, Трубчэўскае, большая частка Чарнігаўскага княства, Мцэнскае, Пуціўльскае і інш. намесніцтвы, паўд. частка Мсціслаўскага княства (Мглін і Папова Гара). З Чарнігаўскага княства ў ВКЛ засталася Рэчыцкая вол. (далучана да Віленскага ваяв.). Статус ваяводства ў 1471 атрымала былое Кіеўскае княства, у 1504 – Полацкае намесніцтва, у 1507 – Навагародскае, у 1508 – Віцебскае і Смаленскае. Жамойцкая і Валынская землі захавалі традыц. назву, але іх намеснікі (адпаведна старасты жамойцкі і луцкі) былі роўныя паводле статусу ваяводу. Такім чынам, на пач. 16 ст. афармілася 2-узроўневая адм. струк-




Карта Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства, складзеная ў 1562 ВацлавамГрадзецкім.




тура. Вышэйшы ўзровень утваралі Віленскае, Віцебскае, Кіеўскае, Навагародскае, Полацкае, Смаленскае ваяводствы, Валынская і Жамойцкая землі. Яны падзяляліся на княствы, намесніцтвы і панскія вотчыны. У 1508 вернута Любецкая валасць (далучана да Кіеўскага ваяв.). У 1513 створана Падляшскае ваяв., у якое, апрача ўласна Падляшша, увайшлі Берасцейскі, Камянецкі і Кобрынскі паветы. У 1514 страчана рэшта Смаленскай зямлі. Усяго да Маскоўскай дзяржавы ў 1486–1514 адышло каля $^1/_3$ тэрыторыі ВКЛ, яго плошча скарацілася да 496 тыс. км², з іх сучасная Літва займала 14%, Беларусь – 45%, Падляшша – 3% і Украіна – 38%. Шэраг удзельных княстваў пасля згасання мясц. дынастый быў падараваны ў 1521–24 каралеве Боне і ператвораны ў намесніцтвы (валасці): Гарадзецкае, Клецкае, Кобрынскае, Пінскае. У 1529 намесніцтвам стала Мсціслаўскае княства. У 1537 на карысць Маскоўскай дзяржавы страчаны Себеж і шэраг дробных памежных валасцей Полацкага ваяв. (т.зв. Завалочча), але вернута Гомельская валасць, уключаная ў Віленскае ваяв. Кантроль ВКЛ над прычарнаморскімі стэпамі фактычна быў страчаны ў апошняй чвэрці 15 ст., з 1520-х г. зах. частка Прычарнамор'я трапіла пад кантроль Асманскай імперыі. Афіцыйна паўд. мяжа ВКЛ па рэках Кадым, Сінюха і далей да вусця Цясміна была замацавана ў 1540-я г.

У выніку адм. рэформы 1565–66 тэр. ВКЛ была нанова падзелена на ваяводствы і паветы. Існавалі ваяводствы: Берасцейскае (Берасцейскі і Пінскі паветы), Брацлаўскае



Карта Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства, створаная Н.Сансонам д'Абевілем і выдадзеная ў Амстэрдаме ў другой палове 17 ст. У сярэдзіне 16 ст. тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага складалася з Віленскага, Троцкага, Навагародскага, Берасцейскага, Мсціслаўскага, Падляшскага, Полацкага, Віцебскага, Кіеўскага, Валынскага, Менскага, Брацлаўскага ваяводстваў і Жамойцкай зямлі (княства).

(без паветаў), Валынскае (цэнтр – Луцк; Крамянецкі, Луцкі і Уладзімірскі паветы), Віленскае (Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі і Лідскі паветы), Віцебскае (Аршанскі і Віцебскі паветы), Кіеўскае (Жытомірскі, Кіеўскі, Мазырскі, Оўруцкі, Чаркаскі, Чарнобыльскі паветы), Менскае (Менскі і Рэчыцкі паветы), Мсціслаўскае (без паветаў), Навагародскае (Ваўкавыскі, Навагародскі і Слонімскі паветы), Падляшскае (цэнтр – Дарагічын; Бельскі, Драгічынскі і Мельніцкі паветы), Полацкае (без паветаў, фактычна значная частка яго тэр. ў 1563–81 заставалася пад кантролем Расіі) і Троцкае (Гарадзенскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі паветы). Жамойцкая зямля з цэнтрам у Расейнах не мела павятовага падзелу, але па-ранейшаму была эквівалентная ваяводству. У канцы 1566 да ВКЛ была далучана Задзвінскае княства (са складу скасаванага Лівонскага ордэна і секулярызаваных уладанняў Рыжскага арцыбіскупства), якое было падзелена на 4 акругі (паветы): Вендэнскі, Дынабургскі, Рыжскі, Трайдзенскі. У выніку *Люблінскай уніі 1569* была ўтворана *Рэч Паспалітая*, у якой Польскае каралеўства і ВКЛ захавалі пэўную самастойнасць. Пры гэтым Брацлаўскае, Валынскае, Кіеўскае (без Мазырскага пав., які ўвайшоў у склад Менскага ваяв.), Падляшскае ваяводствы далучыліся да Польскага каралеўства, Задзвінскае княства стала сумесным уладаннем (кандамініумам) Польшчы і ВКЛ. Іншая частка былой Лівоніі захавалася ў якасці *Курляндскага і Земгальскага герцагства* – васала Рэчы Паспалітай. Тэрыторыя ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай зменшылася да 292 тыс. км² (Беларусь – 77%, Літва – 23%). Паўд.-ўсх. ўскраек сучаснай тэр. Беларусі з Брагінам і Хойнікамі пасля 1569 застаўся ў Кіеўскім ваяв. Польскага каралеўства. Па завяршэнні *Інфлянцкай вайны 1558–82* да Віцебскага ваяв. далучана Веліжская воласць. Падначаленая Рэчы Паспалітай тэрыторыя Лівоніі (Задзвінскае княства) падзелена на 3 прэзідэнтуры (з 1598 – ваяводствы): Вендэнскую (Інфлянцкую), Дорпацкую і Парнаўскую. У выніку *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600–29* большасць Лівоніі адышла да Швецыі, пад кантролем Рэчы Паспалітай засталіся толькі 4 староствы: Дынабургскае, Люцынскае, Марыенгаўзенскае і Рэжыцкае. Іх тэрыторыя ў 1677 аб'яднана ў Інфлянцкае ваяв. (без паветаў) з цэнтрам у Дынабургу, якое захавала двайную прыналежнасць да Польшчы і ВКЛ. У выніку *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609–18* да ВКЛ далучаны Смаленскае ваяв. са Старадубскім пав., а таксама Невельская і Себежская валасці, уключаныя ў Полацкае ваяв. Плошча тэрыторыі дасягнула 380 тыс. км², ВКЛ ахапіла практычна ўсю этнічную тэрыторыю беларусаў (на сучасную Беларусь прыпадала 54%, Літву – 17%). У 1634 да Расіі зноў адышлі часткі Смаленскага (з Жыжацам, Масальскам, Сярпейскам) і Старадубскага (з Трубежам) паветаў агульнай плошчай каля 30 тыс. км². У 1646 у склад Старадубскага пав. з Кіеўскага ваяв. перададзена Лоеўскае старства. Па выніках *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 да Расіі* адышлі Смаленскі і Старадубскі паветы (з апошняга ў складзе ВКЛ засталося толькі Лоеўска-Любецкае староства, уключанае ў Рэчыцкі пав.), часова Веліжская, Невельская, Себежская валасці (вернуты ВКЛ у 1678). З 1678 плошча тэр. ВКЛ складала 306 тыс. км² і не мянялася амаль стагоддзе.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) усх. частка ВКЛ плошчай у 87 тыс. км² (Мсціслаўскае, Інфлянцкае ваяводствы, Віцебскі пав., значная частка Аршанскага, Полацкага, Рэчыцкага паветаў) адышла да Рас. імперыі. Адміністрацыя Аршанскага (з цэнтрам у Халопенічах), Полацкага (з цэнтрам ва Ушачах), Рэчыцкага паветаў працягвала існаваць. Паводле Канстытуцыі 1791 былі ўтвораны новыя паветы: Завілейскі (цэнтр Паставы), Эйшышкскі, Случарэцкі, Кобрынскі, Запінскі (цэнтр Столін). Хуткае скасаванне гэтай канстытуцыі прывяло і да скасавання новаўтвораных паветаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у склад Рас. імперыі ўвайшла цэнтр. частка Беларусі. На астатняй тэрыторыі Гарадзенскі пав. быў пераўтвораны ў Гарадзенскае ваяв. Рэшта тэр. ВКЛ увайшла ў склад Рас. імперыі пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795).

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. М., 1892; Крикун Н. Административно-территориальное устройство Правобережной Украины в XV–XVIII вв. Киев, 1992.

***Вячаслаў Насевіч.***

## дзяржаўны і палітычны лад

На працягу свайго існавання ВКЛ была феад. дзяржавай. У 13–14 ст. у склад ВКЛ паступова ўвайшлі ўсе бел., частка сучасных укр., рус. і польскіх земляў. Баяры ўдзельных княстваў і жыхары буйных гарадоў заключалі з вял. князем ВКЛ дагаворы аб яго вярх. уладзе і захаванні мясц. самакіравання земляў з іх старадаўнім звычаёвым правам. Прымяняўся юрыд. прынцып, які змяшчаўся ў тэксце дамоў ад імя вял. князя: «Мы старыны не рухаем, а навіны не ўводзім». Устанаўлівалася васальная залежнасць мясц. князёў ад вял. князя. Ужо ў гэты перыяд існавання дзяржавы ўсталявалася яе назва «Вялікае княства Літоўскае», або скарочана – «Літва». У самой дзяржаве Літвой спачатку называлі тэр. Верхняга і Сярэдняга Панямоння, а Руссю – Верхняе Падзвінне і Падняпроўе.

Ліст вялікага князя Вітаўта да вялікага магістра Тэўтонскага ордэна Ульрыха фон Юнгінгена. 1404.

У 15 ст. ВКЛ ператварылася ў вял. дзяржаву. Пазней за ўсіх у сярэдзіне 15 ст. ў яе склад увайшла Жамойць (сучасная цэнтр. і зах. Літва), якая мела аўтаномію. Цэнтр. частку ВКЛ з моцнай уладай вял. князя (гаспадара) складалі Віленская, Троцкая, Навагародская, Слонімская, Ваўкавыская, Браслаўская, Ашмянская, Гарадзенская, Вількамірская, Берасцейская, Лідская, Менская, Пінская, Слуцкая і Тураўская землі. Гэтая частка дзяржавы і называлася Літвой. Інш. тэр. ВКЛ, якія мелі аўтаномію са сваім паліт. жыццём, лічыліся землямі ВКЛ, «да таго панства прыслухоўваючымі». Гэта былі Полацкае, Віцебскае, Смаленскае, Кіеўскае, Чарнігаўскае княствы, Валынь, Падолле, Падляшша, Жамойць, Вярхоўскія княствы. Такім чынам, ВКЛ уяўляла сабой федэрацыю земляў, у якой вакол першапачатковага ядра (уласна Літвы) аб'ядноўваліся аўтаноміі. Адпаведна ў тытуле вял. князя пералічваліся найб. значныя землі. Афіц. назва дзяржавы – спачатку Вялікае княства Літоўскае і Рускае, а ў сярэдзіне 15 ст. дададзена і Жамойцкае. Скарочаная назва дзяржавы – Вялікае княства Літоўскае, Літва або Княства (апошняя назва ў перыяд існавання Рэчы Паспалітай).



Палітыку ВКЛ перш за ўсё вызначалі буйныя феадалы рэгіёна Вільні і заходнебел. земляў. Тэрыторыі земляў «прыслухоўваючых» мелі меншую паліт. вагу ў краіне. Такая адасобленасць гэтых тэрыторый захоўвалася да перыяду цэнтралізацыі дзяржавы. Яна была замацавана *абласнымі прывілеямі* (граматамі), якія выдаваліся вял. князем асобным землям.

На чале ВКЛ знаходзіўся вял. князь (гаспадар). Ён быў носьбітам вярхоўнай улады. Яго *гаспадарскі суд* быў вышэйшай і канчатковай судовай інстанцыяй. Вял. князь меў шырокія паўнамоцтвы: ён камандаваў войскам ВКЛ, выдаваў заканадаўчыя акты (прывілеі, асобныя акты гарадам, царкве, землям, прыватным асобам), распараджэнні, кіраваў знешняй палітыкай, фін.-гасп. дзейнасцю, вызначаў асн. кірункі рэліг. палітыкі дзяржавы.

З часоў Гедзіміна ўсталяваўся парадак, паводле якога велікакняжацкі трон гаспадар перадаваў аднаму са сваіх сыноў, не абавязкова



Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр на сойме. Размаляваны дрэварыт са «Статута» Я. Ласкага. Кракаў, 1506.

старэйшаму. Калі ў вял. князя не было сыноў, трон перадаваўся брату. З канца 14 ст. ў пытанне спадчыннасці трона ўсё больш умешваюцца буйныя феадалы. На з'ездах феадалаў адбываліся выбары новага вял. князя, але заўсёды з дынастыі *Гедзімінавічаў* (а з сярэдзіны 15 ст. – з кола адной галіны гэтай дынастыі – *Ягелонаў*, або Ягайлавічаў). Дзеці, браты і пляменнікі вял. князя ў 14–1-й пал. 15 ст. атрымлівалі ад яго ўдзелы. Але іх уладанні не мелі характару трывалых паліт.-дзярж. утварэнняў: межы іх адвольна мяняліся, а ўладары змяшчаліся вял. князем.

У 13–14 ст. вял. князь вырашаў гал. дзярж. пытанні разам з васальнымі князямі і найбольш уплывовымі феадаламі (панамі), якія кіравалі распарадчай дзейнасцю як у сталіцы, так і на месцах (яны ж былі і суддзямі, асабліва ў мясцовасцях, якімі кіравалі). Паступова вышэйшым органам кіравання дзяржавай становіцца *Рада Вялікага княства Літоўскага* (або паны-рада). Спачатку яна мела больш дарадчыя функцыі, але паступова яе правы пашыраліся. У 14 ст. ў склад рады ўваходзілі князі з роду Гедзімінавічаў, а таксама найбольш прыбліжаны да вял. князя князі і баяры. У пач. 15 ст. ў яе склад уключаны намеснікі акруг і вышэйшыя саноўнікі дзяржавы, каталіцкія біскупы і некат. асабіста запрошаныя князі і паны. На сойме 1566 было прынята рашэнне аб увядзенні ў склад Рады ваявод і кашталянаў новастворaных ваяводстваў. Паступова рада ВКЛ ператварылася ў прадстаўнічы орган магнацкай алігархіі. *Прывілей 1492* замацаваў асновы дзярж. і грамадскага ладу ВКЛ, панаючае становішча баяр і іх вярхоў – паноў. Было ўстаноўлена, што вял. князь не мае права адмяняць або змяняць законы, пастановы і судовыя рашэнні, прынятыя гаспадаром разам з Радай. У выпадку адсутнасці вял. князя Рада вырашала пытанні самастойна. Паводле *прывілея 1506*, вял. князь абавязваўся ўвогуле нічога не пастанаўляць без згоды паноў-рады. Гэтыя абмежаванні ўлады вял. князя былі замацаваны ў Статутах ВКЛ 1529, 1566 і 1588.

Кароль Жыгімонт I. Дрэварыт 16 ст.



У 15 ст. па ініцыятыве вял. князя пачалі збірацца агульныя дзярж. з'езды феадалаў (*соймы*) для вырашэння пытанняў ад імя ўсіх феадалаў ВКЛ. У пасяджэннях соймаў удзельнічалі і шэраговыя баяры (шляхта). Вальны сойм ВКЛ як агульнадзярж. орган канчаткова канстытуіраваўся ў 1492, калі баярам усіх земляў ВКЛ былі накіраваны запрашэнні прысылаць сваіх прадстаўнікоў

для вырашэння важных дзярж. спраў. З 1512 на сойм выбіраліся па 2 дэпутаты (паслы) ад кожнага павета. У пасяджэннях соймаў удзельнічала і Рада ВКЛ, асабіста запрашаліся каталіцкія біскупы і правасл. епіскапы, вышэйшыя саноўнікі дзяржавы, князі і знатныя паны. Сойм як прадстаўнічы орган шляхецкага саслоўя ў пач. 16 ст. набыў значэнне заканад. і кантрольнага органа. Сойм прымаў новыя законы, пастановы, нават і па прыватных справах. Але гал. яго функцыямі былі выбары вял. князя, вызначэнне падаткаў на вайсковыя патрэбы, абвяшчэнне вайны, заключэнне міру, разгляд крымінальных спраў вышэйшых саноўнікаў і знатных паноў.



Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр і каронны канцлер Я.Ласкі. Размаляваны дрэварыт. 1506.

На вышэйшыя пасады ў дзяржаве прызначаў вял. князь. Гэта былі ваяводы, кашталяны, маршалкі земскі (вялікі) і дворны, канцлер, гетманы найвышэйшы (вялікі) і польны, падскарбі земскі, старасты. Прызначэнне вял. князем ваявод і кашталянаў праводзілася паводле пэўнай сістэмы: ад ніжэйшых паводле рангу ваяводстваў да самых вышэйшых і прэстыжных. Першае месца ў іерархіі ваяводстваў на тэр. Беларусі і Літвы ў 2-й пал. 16–18 ст. займала Віленскае, потым Троцкае, пасля Жамойцкае княства (са старастам на чале), Смаленскае, Полацкае, Навагародскае, Віцебскае, Берасцейскае, Мсціслаўскае і Менскае ваяводствы. Пры гэтым Смаленскае ваяв. існавала нават тады, калі яго тэрыторыя ў 1514 і 1654 уключалася ў склад Расіі.

Асобнымі землямі і паветамі ў ВКЛ у 14–16 ст. кіравалі намеснікі. У 1413 былі ўведзены пасады віленскага і троцкага ваявод і кашталянаў, у 16 ст. такія ж пасады ўтвораны ў іншых ваяводствах. Паводле адм. рэформы 1565–66 у ВКЛ было ўтворана 13 ваяводстваў, якія падзяляліся на 30 паветаў. Асн. адм.-тэр. адзінкай стаў павет, які меў свой прадстаўнічы орган – шляхецкі *соймік*, выбіраліся пав. шляхецкія суды. Полацкае і



Вальны сойм Рэчы Паспалітай. Дрэварыт са «Статута Вялікага княства Літоўскага». Вільня. 1619.

Мсціслаўскае ваяводствы на паветы не падзяляліся, іх соймікі лічыліся павятовымі. Соймікі вырашалі пытанні не толькі свайго павета, але і агульнадзяржаўныя, давалі інструкцыі сваім паслам на сойм. У 16–18 ст. формы і практычная дзейнасць павятовых соймікаў удасканальваліся, і яны набылі важнае значэнне ў адзінай дзярж. сістэме ВКЛ і каралеўства Польшча.

У выніку стварэння Рэчы Паспалітай у дзярж. і паліт. ладзе ВКЛ адбыліся змяненні. Пасля *Люблінскай уніі 1569* зменшылася тэр. ВКЛ. Ад яе адышлі ў склад Польшчы ўкр. ваяводствы і Падляшша. Шляхта гэтых тэрыторый імкнулася атрымаць больш шырокія паліт. правы, якія ўжо мела польская шляхта (гл. *Радамская канстытуцыя 1505*). Толькі соймік Мазырскага пав. Кіеўскага ваяв. выказаўся за захаванне сваёй тэрыторыі ў складзе ВКЛ, і павет быў уключаны ў Менскае ваяв.



Буздыганы палкоўніка і ротмістра Рэчы Паспалітай. 17 ст.

У сувязі з трывалым паліт. саюзам паміж ВКЛ і каралеўствам Польшча, які амаль заўсёды падмацоўваўся персанальнай уніяй паміж абедзвюма дзяржавамі (гл. *Крэўская унія 1385, Віленска-Радамская унія 1401, Гарадзельская унія 1413, Мельніцкая унія 1501*), у час цяжкай для ВКЛ *Інфлянцкай вайны 1558–82* асн. частка феадалаў Беларусі разам з вял. князем літоўскім і польскім каралём *Жыгімонтам II Аўгустам* пагадзілася з кіруючымі коламі Польшчы на больш цеснае аб'яднанне абедзвюх дзяржаў. У выніку Люблінскай уніі 1569 Польшча (Карона) і ВКЛ (Княства) утварылі федэратыўную дзяржаву (з захаваннем пэўнай самастойнасці кожнай дзяржавы) – *Рэч Паспалітую*. Новая дзяржава лічылася агульнай для «абодвух народаў», г.зн. шляхты Польскага каралеўства і ВКЛ. Кароль польскі (ён жа і вял. князь літоўскі, рускі і жамойцкі) меў абмежаваныя паўнамоцтвы. Заканадаўчую і часткова суд. ўладу меў агульны для ўсёй дзяржавы магнацка-шляхецкі сойм, які складаўся з 2 палат: *Сената* (магнатаў, прадстаўнікоў цэнтр. адміністрацыі, вярхоў каталіцкага касцёла) і *Пасольскай Ізбы*, у якую соймікі выбіралі дэпутатаў-паслоў па 2 ад кожнага павета. Сойм прымаў асобныя законы для Польшчы і ВКЛ. Рэч Паспалітая вяла агульную для Кароны і ВКЛ знешнюю палітку. Аднак у кожнай дзяржаве былі асобныя дзярж. адміністрацыі (з адпаведнымі кіруючымі пасадамі), асобныя войскі са сваім камандаваннем, свае фін. сістэмы з правам чаканкі аднолькавай манеты, свой скарб, самастойная суд. сістэма і сваё заканадаўства. Кожная з дзяржаў мела сваю дзярж. мову: Польшча – лацінскую (з канца 16 ст. фактычна польскую), ВКЛ – беларускую (з 1697 польскую, але афіц. акты на бел. мове захоўвалі сваю моц). Згодна са Статутам ВКЛ 1588 (як і ў ранейшых Статутах ВКЛ 1529 і 1566) польскай шляхце забаранялася ў ВКЛ займаць дзярж. пасады любога ўзроўню, а таксама купляць і атрымліваць у спадчыну або ў падарунак нерухомую маёмасць.



Пагадненне паміж баярынам Яцкам Багданавічам і велікакняжацкім кухмістрам Пятром Алехнавічам аб продажы сенажаці. Гародня, 1498.



Каранацыйны меч Жыгімонта I Аўгуста.

Кароль выбіраўся выбарчым (элекцыйным) соймам пажыццёва. Улада караля была абмежавана. Ён падпісваў законы, прынятыя соймам, выдаваў прывілеі (дэкрэты) установам, асобам. Гэтыя прывілеі не павінны былі парушаць законы. Кароль не меў права пакінуць у спадчыну сыну каралеўскі пасад. Ён не меў права арыштоўваць шляхціца без папярэдняга разгляду справы ў судзе.

Каб кантраляваць дзейнасць манарха, пасля смерці кожнага караля і перад абраннем новага збіраўся канвакацыйны сойм і выпрацоўваў умовы, якія павінен быў прыняць пры абранні новы кароль. Звычайна гэта былі дадатковыя абмежаванні. Да такіх, напр., адносіліся *Генрыкавы артыкулы*. Пасля канвакацыйнага сойма праводзіліся на сойміках выбары новых дэпу-



Шпалера з гербамі Польшчы і ВКЛ. Брусель. Каля 1555.

татаў на выбарчы сойм. Паколькі выбары былі ад усяго «паліт. народа», г.зн. шляхты, то на выбарчы сойм мог прыехаць і ўдзельнічаць у ім кожны шляхціц. Так, 12.9.1733 сабралася 12 тыс. выбаршчыкаў, якія абвясцілі абранне каралём Станіслава Ляшчынскага. Кандыдатам у каралі тэарэтычна мог быць кожны шляхціц або замежны прынц. У канцы 16 ст. і сярэдзіне 17 ст. на трон вылучаліся нават кандыдатуры маскоўскіх цароў Фёдара Іванавіча і Аляксея Міхайлавіча.

Пасля абрання караля на павятовых сойміках выбіралі дэпутатаў на каранацыйны сойм, падчас якога ў касцёле праводзілася ўрачыстая каранацыя караля і прысяга яго на выкананне законаў і ўмоў канвакацыйнага сойма.

Прававое становішча караля вызначалася *Пакта канвента* – дамовай паміж шляхтай і новаабраным каралём, у якой утрымлівалася паліт. і фін. абавязкі караля. Упершыню яны сфармуляваны ў 1573 пры абранні на трон Генрыка Валезы (Валуа) разам з Генрыкавымі артыкуламі. Паводле іх кароль абавязаўся панаваць у дзяржаве разам з радай з 18 сенатараў, без спадчыннага замацавання трона, склікаць кожныя 2 гады сойм, без іх




Вальны сойм Рэчы Паспалітай. Гравюра Я.Лаўры. 1622.



Канцлер Леў Сапега, адзін са стваральнікаў Статута ВКЛ 1588. Гравюра 19 ст. з партрэта 17 ст.

згоды не абвяшчаць вайну і не заключаць мір, не ўводзіць новых падаткаў. Шляхце давалася права адмаўляць каралю ў паслушэнстве пры парушэнні каралём сваіх абавязацельстваў. Усе наступныя каралі пацвярджалі Генрыкавы артыкулы пры абранні на трон. У ВКЛ прававое становішча вял. князя (караля) вызначалася яшчэ і Статутам ВКЛ 1588.

Дзейнасць караля строга кантралявалася. Сойм абіраў з сенатараў раду (фактычна пастаянную дарадчую і кантрольную камісію), якая сачыла за выкананнем каралём законаў. Калі шляхта лічыла, што кароль парушае іх правы, яна мела законнае права стварыць *канфедэрацыю* і выступіць у абарону закона і грамадзянскіх правоў, абвясціць *рокаш*. Пастановы канфедэрацыі мелі сілу законаў сойма, і кароль часта згаджаўся з гэтымі пастановамі, бо шляхта мела права скінуць яго з трона і абраць новага манарха (напр., дэтранізацыя Аўгуста II у 1704).

З 2-й пал. 17 ст. дэпутацкая меншасць на сойме магла апратэстоўваць прынятыя большасцю законапраекты і пастановы. Уводзілася права *«ліберум вета»*, калі голасам нават аднаго дэпутата не прымаўся закон, і ўся праца сойма спынялася, а прынятыя на гэтай сесіі законы скасоўваліся. Усяго з 80 соймаў у 1652–1764 такім чынам былі сарваны 44. Каб пазбегнуць зрыву сойма, у пэўных выпадках дэпутаты на пачатку працы абвяшчалі яго канфедэрацыяй, і тады рашэнні прымаліся большасцю галасоў.

У 2-й пал. 16–1-й пал. 17 ст. перад вальным соймам Рэчы Паспалітай ці пасля яго ў Ваўкавыску, а потым у Слоніме збіраліся *соймікі галоўныя*, на якіх сенатары і паслы (дэпутаты) ВКЛ абмяркоўвалі, без удзелу дэпутатаў і сенатараў ад Польшчы, паліт. і эканам. пытанні сваёй краіны і прымалі рашэнні па абароне дзярж. інтарэсаў ВКЛ у федэратыўнай Рэчы Паспалітай.

Змяненне паліт. ладу ВКЛ адбылося ў канцы 17 ст. У 1680–90-х г. у ВКЛ узвысіўся род Сапегаў, якія выступілі супраць караля Яна III Сабескага, маючы намер стаць на чале самастойнага ВКЛ. У асяроддзі шляхты ВКЛ пачалася адкрытая барацьба супраць усеўладства і злоўжыванняў Сапегаў. Шляхце ВКЛ удалося правесці на сойме 1697 канчатковае ўраўнаванне яе правоў з правамі польскай шляхты, у т.л. і ў адносінах узмацнення яе кантролю над дзейнасцю вышэйшых службовых асоб у ВКЛ (гл. *«Ураўнаванне правоў» 1697*). Такім чынам, склаўся комплекс правоў і прывілеяў шляхты – *шляхецкія вольнасці*.

У 2-й пал. 18 ст. прыхільнікі рэформ дамагліся змяненняў у дзярж. ладзе. Канвакацыйны сойм 1764 прыняў шэраг пастаноў па фін. справах і дзейнасці суда, а дэпутаты вызваляліся ад абавязкаў прытрымлівацца інструкцый, атрыманых ад сваіх паветовых соймікаў. На сойме 1764 было абмежавана права «ліберум вета», створаны *Скарбовая камісія Вялікага княства Літоўскага* і *Вайсковая камісія Вялікага княства Літоўскага*.

Аднак рэформы выклікалі процідзеянне рэакцыйнай часткі магнатаў і шляхты, якія не жадалі ўмацавання цэнтр. улады. Супраць рэформ выступілі Расія і Прусія. Іх уладары Кацярына II і Фрыдрых II з іх абсалютысцкімі рэжымамі не жадалі мець побач дзяржаву з моцнай цэнтр. уладай і рэфармаванай дзярж. сістэмай. Кацярына II арганізавала з дысідэнтаў (некаталіцкай шляхты) *Слуцкую канфедэрацыю* і Тарунскую канфедэрацыю, а таксама

Прывілей аршанскім мяшчанам на вызваленне ад замкавых павіннасцей. 1589. Копія ў метрыцы ВКЛ.



каталіцкую *Радамскую канфедэрацыю*. У Рэч Паспалітую былі ўведзены рас. войскі, якія падтрымалі канфедэратаў. У выніку інтэрвенцыі сойм 1768 вымушаны быў прыняць пастанову аб ураўнаванні правоў дысідэнцкай шляхты з каталіцкай і падпісаць *дагавор 1768* з Расіяй, якая гарантавала *Кардынальныя правы*, што былі прынятыя соймам і захоўвалі былы дзярж. лад. Аднаўляліся «ліберум вета», выбарнасць караля, непахіснасць шляхецкіх прывілеяў, у прыватнасці, выключнае права шляхты замяшчаць дзярж. пасады.

Сац.-эканам. развіццё Рэчы Паспалітай, уздым гарадоў, гандлю, рамёстваў, мануфактур у 2-й пал. 18 ст. прымусілі ўрад і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага правесці некат. рэформы дзярж. ладу. У 1773 створана *Адукацыйная камісія*, у 1775 – *Пастаянная Рада* (складалася з караля, 18 сенатараў і 18 дэпутатаў сойма). Былі прыняты рашэнні, накіраваныя на паляпшэнне гандлю і прававога становішча мяшчан, на развіццё прамысловасці. Аднак далейшыя рэформы не праводзіліся.

Рэформы пачалі праводзіцца сіламі шляхецка-бурж. блоку ў час дзеяння *Чатырохгадовага сойма 1788–92*. Сойм прыняў *Канстытуцыю 3 мая 1791*, у тэксце якой зусім не ўпамінаюцца ВКЛ і Рэч Паспалітая. Аднак канстытуцыя не скасавала дзярж.-прававой самастойнасці ВКЛ. Гэта быў кампраміс, які дазволіў дэпутатам ВКЛ захаваць прававую і паліт. адасобленасць сваёй дзяржавы. Яны кіраваліся інструкцыямі павятовых соймікаў, якія патрабавалі пакінуць унію як аснову ўзаемных стасункаў, захаваць Статут ВКЛ 1588, асобную Скарбовую камісію ВКЛ, праводзіць кожны 3-і вальны сойм у Гародні ці Вільні. Былі захаваны асобныя дзярж. пасады і працягвала існаваць войска ВКЛ, колькасць якога была даведзена да 15 тыс. чал. Канстытуцыя адмяняла выбарнасць каралёў, але ўводзіла выбарнасць дынастыі. Каралю і радзе, якая складалася з прымаса (главы каталіцкага касцёлу) і 5 міністраў, належала выканаўчая ўлада. «Ліберум вета» і канфедэрацыі адмяняліся. Усе рашэнні на сойме павінны былі прымацца большасцю галасоў. У склад сойма ўводзіўся 21 прадстаўнік гарадоў з правам дарадчага голасу.

Сцэна сойміка ў касцёле. Малюнак Я.П.Норбліна. 1785(?).





Соймік перад касцёлам. Малюнак Я.П.Норбліна. 1790.

20.10.1791 сойм прыняў пастанову *«Узаемнае заручэнне абодвух народаў»*, якая замацавала федэратыўную аснову Рэчы Паспалітай. У гэтай ухвале адзначалася, што ВКЛ павінна мець «такую ж колькасць міністраў і нац. пасад ды з такімі ж тытуламі і паўнамоцтвамі, як у Кароне». Было захавана роўнае прадстаўніцтва ВКЛ у цэнтр. органах кіравання супольнай дзяржавы, у Вайсковай і Скарбовай камісіях абодвух народаў. 28.6.1791 была створана Камісія паліцыі абодвух народаў.

Яшчэ ў 1768 як органы мясцовага кіравання ў буйных гарадах былі створаны *камісіі добрага парадку*, а ў 1789 у ваяводствах і павятовых цэнтрах – *камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя*, якія з лют. 1790 сталі пастаяннымі органамі выканаўчай улады, а камісары (па 15 чал. у камісіі) выбіраліся шляхтай на павятовых сойміках на 2 гады.

Каб спыніць далейшае правядзенне рэформ, што было небяспечным для самадзяржаўнага ладу Рас. імперыі, Кацярына II дамовілася з рэакцыйнымі магнатамі аб інтэрвенцыі. Пасля *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* ва ўмовах акупацыі ўлада была перададзена кіраўнікам *Таргавіцкай канферэнцыі*. У чэрв. 1793 у Гародні сабраўся апошні сойм Рэчы Паспалітай, у час якога Канстытуцыя 3 мая была адменена і прынята новая, паводле якой аднаўляліся Пастаянна Рада і выбарнасць караля, рашэнні на сойме прымаліся большасцю галасоў, каралю прадастаўлялася права вета на соймавыя законы. Пасля падаўлення *паўстання 1794* адбыўся 3-і падзел Рэчы Паспалітай (1795), у выніку якога дзяржава спыніла сваё існаванне.

У мясцовай адміністрацыі ў паветах ВКЛ да сярэдзіны 16 ст. кіраўніком акругі (павета) быў староста – намеснік вял. князя з поўнай дзярж. і судовай уладай. Пасля ўвядзення ў 1565–66 шляхецкага кіравання на сойміках у кампетэнцыі старасты застаўся толькі *гродскі суд*. Староста прызначаўся вял. князем (каралём) і сам прызначаў сабе намесніка – падстарасту, які выконваў судовыя абавязкі (раней і адміністрацыйныя). Павятовы харужы вёў улік шляхты і ваеннаслужылых людзей у павеце, збіраў у паход павятовае апалчэнне. Ніжэйшай асобай у сістэме дзярж. кіравання былі *дзяржаўцы*, якія распараджаліся дзярж. маёнткамі і кіравалі насельніцтвам валасці. Да 17 ст. ў мясцовасцях, дзе былі вольныя сяляне, яны выбіралі сельскіх і валасных *старцаў*, соцкіх, дзесяцкіх, якія наглядалі за выкананнем насельніцтвам дзярж. павіннасцей, збіралі даніну і падаткі, удзельнічалі ў разглядзе спраў на копным судзе.

Насельніцтва гарадоў да 15 ст. падпарадкоўвалася велікакняжацкім намеснікам. Пачынаючы з канца 14 ст., а асабліва ў 16 ст., у ВКЛ уводзіцца *магдэбургскае права* – сістэма гар. самакіравання. На чале гар. улады стаяў *войт*, прызначаны вял. князем з феадалаў або заможных мяшчан (у прыватнаўладальніцкіх гарадах магнат прызначаў войта з мяшчан свайго горада). Войт ажыццяўляў гал. распарадчую ўладу ў гар. абшчыне, а таксама вяршыў *войтаўскі суд*. Органам гар. самакіравання была гар. рада (з 2-й пал.

17 ст. больш частая назва – *магістрат*), якая ў 17–18 ст. часткова абмежавала ўладу войта (асабліва ў прыватнаўладальніцкіх гарадах). Рада не толькі кіравала гар. справамі, але і мела функцыі суда. Жыхары гарадоў, якія атрымалі самакіраванне паводле магдэбургскага права, вызваляліся ад феад. павіннасцей, суда, улады ваявод і старастаў. У гарадах існавалі кварталы або ўчасткі з дамамі, якія належалі феадалам і не падлягалі гар. уладзе. Яны называліся *юрыдыкамі*. У 16 ст. ў ВКЛ ужо склалася сістэма дзярж. органаў, якая мела заканадаўчыя, выканаўчыя, распарадчыя і судовыя функцыі.



Статут ВКЛ 1588. Выданне Віленскай друкарні Мамонічаў. Канец 16 – пач. 17 ст.

У 13–15 ст. заставалася тая ж судовая сістэма, што існавала да ўтварэння ВКЛ. У 16–18 ст. яна спалучала 2 сістэмы судоў: агульныя суды, што былі звязаны з органамі дзярж. кіравання, і саслоўныя. У 14–15 ст. у цэнтры княстваў насельніцтва судзілі князі з баярамі, у інш. гарадах – княжацкія намеснікі, у валасцях – валасцелі з валаснымі старцамі. Дзейнічаў і старадаўні *копны суд* жыхароў сяла або некалькіх сёл.

Найвышэйшым судом ВКЛ быў гаспадарскі (вялікакняжацкі) суд. Вял. князь быў вярхоўным суддзёй па ўсіх справах, якія паступалі да яго з ніжэйшых інстанцый, а таксама па справах, якія ён разглядаў непасрэдна. У яго кампетэнцыю ўваходзілі гал. пытанні дзярж. парадку, падатковыя, маёмасныя і інш. справы. У *Судзебніку 1468* было ўказана, што разам з гаспадаром у вырашэнні дзярж. спраў прымаюць удзел паны-рада. Калі вял. князі доўгі час знаходзіліся ў Польшчы, то паны-рада ператвараліся ў вышэйшую судовую інстанцыю.

У пач. 16 ст. ў ВКЛ пачаў працаваць *задворны асэсарскі суд*, які складаўся з прызначаных на пэўную сесію асоб і дзейнічаў пры вял. занятасці вял. князя. Статут ВКЛ 1529 пашыраў судовыя паўнамоцтвы паноў-рады, якая склікалася на судовыя сесіі ў Вільню штогод. Такім чынам, паны-рада станавіліся вышэйшай суд. інстанцыяй у ВКЛ. На рашэнні гэтага суда магла падавацца апеляцыя да вял. князя. У пач. 16 ст. пачаў дзейнічаць і маршалкаўскі суд, калі вял. князь даручаў маршалку земскаму (у яго адсутнасці – маршалку дворнаму) разглядаць пэўныя справы. У адрозненне ад асэсарскага суда маршалкаўскі суд разглядаў справы і тады, калі гаспадара ў дзяржаве не было. Акрамя таго, маршалак земскі судзіў усе справы аб злачынствах і правапарушэннях, якія адбываліся ў мясцовасці, дзе ў гэты час знаходзіўся вял. князь, а таксама на сойме. Утварыліся таксама *камісарскія суды*, якія займаліся гал. чынам справамі па памежных пытаннях.

Статут ВКЛ 1588. Трэцяе выданне. Вільня, друкарня Мамонічаў. 1588.



Суд. сістэма ў ВКЛ была рэфармавана ў час адм.-суд. рэформы 1565–66, калі шляхта атрымала самакіраванне і ў паветах былі створаны шляхецкія суды.

*Замкавы суд* (або гродскі) быў павятовым судом для шляхты, мяшчан і сялян. Дзейнічаў у 2 складах – вышэйшым (як 1-я і 2-я інстанцыі) і ніжэйшым (толькі як 1-я інстанцыя). Гал. суддзёй быў ваявода або староста. Калі гал. суддзя адсутнічаў, яго замяняў падстараста. У вышэйшы замкавы суд уваходзілі гал. суддзя і прадстаўнікі шляхты. Ніжэйшы суд складаўся з нам. гал. суддзі, суддзі і пісара. Замкавы суд разглядаў справы пра найб. цяжкія злачынствы асоб, якія былі затрыманы на месцы злачынства, таксама сведчыў копіі дакументаў, здзелкі, выконваў прыгаворы. Судом 1-й інстанцыі

быў *земскі суд*, які разглядаў крымінальныя і цывільныя справы, выконваў натарыяльныя акты і інш. Ён выбіраўся павятовай шляхтай з ураджэнцаў павета, якія тут мелі маёнткі і ведалі права. Сесіі земскага суда адбываліся 3 разы на год. Судаводства вялося паводле *Бельскага прывілея 1564* і Статутаў ВКЛ 1566 і 1588. Паводле рэформы 1565–66 у павеце існаваў і падкаморскі суд для разгляду памежных зямельных спрэчак паміж шляхтай. Суд вяршыў падкаморы, які разглядаў дакументы, выслухоўваў сведкаў, выязджаў на месца і выдаваў дэкрэт (гранічны ліст). Падкаморага прызначаў вял. князь з 4 кандыдатаў, выбраных шляхтай на павятовым сойміку. Падкаморы падбіраў сабе 1 або 2 каморнікаў, якія яму дапамагалі, і пісара. Ва ўсе павятовыя суды выбіраліся шляхціцы, якія добра ведалі бел. мову, каб разбірацца ў дакументах, у т.л. старажытных.

Па-ранейшаму ў сельскіх мясцовасцях і некат. гарадах, дзе не было магдэбургскага права, у 16–17 ст. дзейнічаў копны суд, які разглядаў справы сялян і гараджан. Суддзямі былі мясц. жыхары, гаспадары дамоў і зямельных надзелаў (звычайна 10–20 чал.). Яны дзейнічалі пад наглядам дзярж. або панскай адміністрацыі. У некат. мясцовасцях Беларусі (напр., у Слуцкім княстве) копныя суды дзейнічалі і ў 18 ст. Яны падлягалі замкаваму суду.

У 1581 быў створаны і ў 1582 пачаў працаваць *Трыбунал Вялікага княства Літоўскага* – вышэйшы апеляцыйны суд ВКЛ, пастановы якога мелі сілу пастаноў сойма. Складаўся ён з 46 суддзяў-дэпутатаў, якія выбіраліся на павятовых сойміках па 2 дэпутаты ад кожнага, тэрмінам на 1 год. Трыбунал ВКЛ разглядаў апеляцыі па рашэннях земскіх, гродскіх і падкаморскіх судоў, а таксама скаргі на рашэнні павятовай адміністрацыі. У 1-й інстанцыі Трыбунал разглядаў справы аб належным выкананні старастамі і замкавымі ўраднікамі сваіх абавязкаў пры судаводстве. Сесіі Трыбунала ВКЛ праходзілі пад старшынствам маршалка. Пастановы прымаліся большасцю галасоў на аснове Статута ВКЛ, соймавых канстытуцый і звычаёвага права. Сесіі Трыбунала напачатку праводзіліся ў Вільні і Троках (для тэр. Віленскага і Троцкага ваяводстваў, Жамойці), Навагародку і Менску (для астатняй тэр. ВКЛ), з 1588 штогод у Вільні і паперамення праз год у Навагародку і Менску, з 1755 – штогод у Вільні і Гародні. З 1613 у ВКЛ існаваў *Скарбовы трыбунал*, які кантраляваў фінансавыя справы дзяржавы. У 1726 частка яго функцый перададзена Трыбуналу ВКЛ.



Статут Трыбунала Вялікага княства Літоўскага. Тытульны ліст. Вільня. 1586.

З 1572 у Польшчы і з 1587 у ВКЛ у часы бескаралеўя ў паветах дзейнічалі *каптуровыя суды*. На тэр. Беларусі ў склад каптуровага суда ўваходзілі ваявода або староста ці іх намеснікі, суддзя і пісар гродскага суда, падкаморы, суддзя, падсудак і пісар земскага суда. З 17 ст. ў склад каптуровага суда выбіраліся суддзі, абраныя на перадканвакацыйных павятовых сойміках. Каптуровы суд разглядаў крымінальныя справы аб забойствах, разбоях, падпалах, нападах на маёнткі, а таксама цывільныя справы магнатаў, шляхты і манастыроў. Пастановы каптуровага суда прымаліся большасцю галасоў і апеляцыі не падлягалі.

У гарадах ВКЛ, якія мелі самакіраванне, акрамя войтаўскага дзейнічаў і *войтаўска-лаўніцкі суд*, а таксама *бурмістраўска-радзецкі суд*. Войтаўскі суд дзейнічаў у гарадах, якія ўжо мелі магдэбургскае права, і ў тых гарадах, якія яго не мелі. Яны разглядалі спрэчкі паміж мяшчанамі. Больш пашыраным быў войтаўска-лаўніцкі суд (колькасць лаўнікоў была розная, напр., у Копылі і Нясвіжы іх было па 4, у Менску і Берасці – па 12, у Гародні – 11). Гэты суд разглядаў крымінальныя справы, маёмасныя спрэчкі, сведчыў дагаворы куплі-продажу, тастаменты. Асобна ў гарадах з магдэбургскім правам дзейнічаў бурмістраўска-радзецкі суд, у склад якога ўваходзілі



Селянін у калодках. Дрэварыт з кнігі Берната з Любліна «Жыццё фрыгійца Эзопа». Кракаў, 1578.



бурмістры і радцы. Суд разглядаў правапарушэнні мяшчан і інш. гараджан, спрэчкі паміж купцамі, паміж рамеснымі майстрамі, падмайстрамі і інш. У большасці прыватнаўладальніцкіх гарадоў і ў малых дзярж. гарадах у 17–18 ст. дзейнічаў адзіны суд гар. магістрата, у які ўваходзілі войт, бурмістры, радцы і лаўнікі.

Вял. значэнне з 15 ст. меў *вотчынны суд*. *Прывілеем 1447* вял. князь Казімір Ягелончык перадаў права суда над насельніцтвам феадалам – панам і баярам, на чыёй зямлі жылі залежныя ад іх сяляне і гараджане. Артыкул 12 прывілея 1447 рэгламентаваў судовае права пана або баярына. Залежныя ад феадала людзі былі пазбаўлены права апеляцыі ў дзярж. органы і суды. Судаводства ў вотчынным судзе вёў сам пан ці службовыя асобы яго дваровай адміністрацыі, якім ён даручаў весці суд. Меры пакарання вызначаліся адвольна. Справы па цяжкіх злачынствах павінны былі разглядацца згодна з дзярж. заканадаўствам, перш за ўсё са Статутамі ВКЛ.

Прававая сістэма ВКЛ сфарміравалася на падставе мясцовага звычаёвага права, прававых актаў дзярж. і судовых органаў у ВКЛ з 2-й пал. 13 ст., побач са звычаёвым правам, утвараецца і пісьмовае права, зафіксаванае ў дакументах-граматах (прывілеях). Спачатку складваліся дагаворы вял. князя з баярствам асобных земляў (Полацкай, Смаленскай і інш.), якія гарантавалі захаванне «старыны», а таксама ўстаўныя граматы і гаспадарскія лісты да пэўных асоб. З канца 14 ст. вял. князі выдалі шэраг прывілеяў групам феадалаў паводле лакальнага прынцыпу. У 15 ст. гал. значэнне ў прававой сістэме мелі ўжо заканадаўчыя акты: агульнадзярж. (агульназемскія) прывілеі, абласныя (зямельныя) прывілеі, граматы гарадам, валасцям, дзярж. асобам. Першым агульназемскім прывілеем ВКЛ, выдадзеным Ягайлам у Вільні, быў *прывілей 1387*, якім зацвярджаліся правы баяр, якія прынялі і прымалі хрышчэнне паводле каталіцкага абраду. Такое ж значэнне меў *Гарадзельскі прывілей 1413*. *Прывілей 1432* і *прывілей 1434* ураўнавалі саслоўныя, маёмасныя і асабістыя правы літоўскіх, бел. і укр. феадалаў як каталіцкага, так і правасл. веравызнання. Агульнадзярж. прывілеем быў і Казіміраў прывілей 1447, які замацаваў шырокія правы баяр ВКЛ і перадаваў баярам права судзіць сваіх падданых; баяры станавіліся адзінымі суддзямі ў сваіх маёнтках. Агульназемскім прывілеем быў і Аляксандраў прывілей 1492, якім значна пашыралася ўлада паноўрады. Такое ж значэнне меў і прывілей 1506. Вышэйшай ступенню заканадаўства ў дзяржаве сталі Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588. Яны былі першымі ў Еўропе зборамі законаў, добра распрацаванымі юрыдычна на аснове мясц. права. Статут ВКЛ 1588 дзейнічаў на тэр. Беларусі і Літвы без значных змен да 1840. У 16 ст. працягвалі дзейнічаць і таксама выдавацца прывілеі асобным землям ВКЛ.

Пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай юрыд. нормы значна пашырыліся, калі соймы прымалі канстытуцыі (законы) ВКЛ, асобныя ад польскіх законаў. Прававымі дакументамі былі пастановы павятовых соймікаў, гар. магістратаў гарадоў з магдэбургскім правам, каралеўскія (вялікакняжацкія) дэкрэты, асобныя артыкулы міжнар. дагавораў, акты канфедэрацый, акты паўстання 1794.

*Літ.*: Владимирский-Буданов М.Ф. Очерки из истории литовско-русского права. [Ч.] 1–2. Киев, 1889–90; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Ист. очерки. [М., 1892]; Я г о ж. Литовско-русский сейм. М., 1900; Я г о ж. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586). Т. 1. СПб., 1901; Максимейко Н.А. Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902; Малиновский И. Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Ч. 2, вып. 2. Томск, 1912; Halecki O. Dzieje unii Jagiellońskiej. T. 1–2. Kraków, 1919–20; Kutrzeba S. Historja ustroju Polski w zarysie. T. 2. 2 wyd. Lwów; Warszawa, 1921; Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII wieku. Białystok; Warszawa, 1970; Я г о ж. Historia państwa i prawa Polski do roku 1795. Cz. 1. Do połowy XV w. 4 wyd. Warszawa, 1973; Я г о ж. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988; Я г о ж. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002; Юхо И.А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Я г о ж. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; Яго ж. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992.

***Анатоль Грыцкевіч.***

## дзяржаўная і зямельная сімволіка

Як і ў іншых еўрапейскіх краінах, у ВКЛ разам з дзярж. гербам («Пагоня») склаўся комплекс зямельных гербаў, якія сімвалізавалі магутнасць і адзінства дзяржавы, сведчылі аб пэўных гіст. этапах складвання яе тэрыторыі, характарызавалі найб. важныя сац.-паліт. і культурныя працэсы, што ў ёй адбываліся, нагадвалі аб тэрытарыяльных стратах, адлюстроўвалі паліт. праграмы і дзярж. ідэалогію вял. князёў літоўскіх і тагачаснага грамадства.



Герб Вялікага княства Літоўскага з гербоўніка «Codex Bergshammar». 1-я пал. 15 ст.

З'яўленне гербаў у ВКЛ было звязана з узмацненнем заходнееўрапейскіх геральдычных уплываў у 2-й пал. 14 ст. спачатку праз Лівонію і Прусію, а пазней праз Венгрыю, Польшчу і Мазовію, што было вынікам знешнепалітычных падзей, у першую чаргу – заключэння дынастычнай Крэўскай уніі 1385. Аб'яднанне ВКЛ і Польскага каралеўства пад уладай караля Уладзіслава II Ягайлы спрыяла афармленню па правілах геральдыкі выявы коннага рыцара з мячом з партрэтнай пячаткі вял. князя літоўскага. У выніку геральдызацыі вершніка быў створаны дынастычны герб Гедзімінавічаў, да якіх належаў новы кароль Польшчы, і адначасова дзярж. герб ВКЛ. У канцы 15–пач. 16 ст. ён атрымаў назву «Пагоня». Разам з тым склаўся асабісты герб Уладзіслава II Ягайлы: залаты падвойны крыж у блакітным полі, які змяшчаўся на тарчы коннага рыцара. У сярэдзіне 15 ст. ён атрымаў назву «Бойча». Геральдызацыя партрэтнай пячаткі Уладзіслава II Ягайлы ў канцы 14 ст. падштурхнула іншых Гедзімінавічаў да стварэння ўласных асабістых гербаў – «Льва» ў Скіргайлы і «Калюмнаў» у Вітаўта.



Герб «Пагоня» з кнігі А. Гваньіні «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі». Кракаў. 1611.

Як сведчаць гербоўнікі і сфрагістычныя матэрыялы, у 1-й пал. 15 ст. склаліся 2 тыпы герба ВКЛ «Пагоня»: ва Уладзіслава II Ягайлы і яго нашчадкаў – вершнік з мячом і «Бойчай», а ў Вітаўта і Жыгімонта Кейстутавічаў – вершнік з мячом і «Калюмнамі». Згасанне Кейстутавічаў і працяг галіны Ягайлавічаў прадвызначыла канчатковую перамогу ў якасці дзярж. герба ВКЛ і дынастычнага герба Гедзімінавічаў вершніка Уладзіслава II Ягайлы. «Калюмны» засталіся на другім плане і ў 16 ст. выконвалі ролю 2-га, малога дзярж. герба ВКЛ.

Першыя зямельныя гербы ў ВКЛ з'явіліся ў час праўлення вял. князя літоўскага Вітаўта. У пач. 15 ст. ў ВКЛ уведзена пасада герольда, які меў афіцыйны тытул «Litherland». Ён стварыў першыя 4 зямельныя гербы, якія знайшлі адлюстраванне ў 4-часткавым гербе на пячатцы Вітаўта 1401 і на яго троннай пячатцы, што выкарыстоўвалася ў 1407–30: геральдычны крыж, вершнік без тарчы з дзідай ці з мячом, пешы рыцар з дзідай і шчытом, мядзведзь, які ідзе. Большасць даследчыкаў лічыць, што гэта былі гербы Валыні, Віленскага, Троцкага і Кіеўскага (або Жамойцкага) княстваў (зямель) адпаведна. Аднак паводле гербоўніка 1-й пал. 15 ст. «Armorial Lyncenich» гэтыя гербы адносіліся да Наўгародскай (падпісаны «nowengrote»), Віленскай («derlant von der wille»), Троцкай

(«olde dratun») і Смаленскай («smollenghe») зямель. Такім чынам, першыя зямельныя гербы на пячатках Вітаўта адносіліся да Віленскага і Троцкага княстваў (з 1413 першых ваяводстваў у ВКЛ), Вял. княства Смаленскага (далучана да ВКЛ у 1395) і Ноўгарада Вялікага (на які прэтэндаваў Вітаўт і дзе ў 1389–92, 1407–08 і 1411–12 сядзеў яго намеснік кн. Лугвень). Яны адлюстроўвалі палітычныя амбіцыі (праграму) і цэнтралізатарскую палітыку вял. князя літоўскага. Першыя зямельныя гербы былі паўтораны без змен на тронных пячатках Вітаўтавых наступнікаў – вял. князёў Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча.



Гербы Вялікага княства Літоўскага і Польшчы з гербоўніка «Armorial Lyncenich». 1-я пал. 15 ст.

Значныя змены ў зямельнай геральдыцы ВКЛ адбыліся ў 1-й пал. 16 ст. ў час праўлення Жыгімонта Старога. Пры ім па-новаму былі асэнсаваны старыя зямельныя гербы і створаны новыя. На вял. пячатцы ВКЛ Жыгімонта Старога комплекс зямельных гербаў выглядаў наступным чынам: геральдычны крыж (падпісаны «VOLINSE» – валынскі), мядзведзь, што ідзе («SMOLNE» – смаленскі), і архангел Міхаіл («KIOVIENS» – кіеўскі). Змяшчэнне гербаў «рускіх» зямель ВКЛ на пячатцы геральдычна падмацоўвала велікакняжацкі тытул. Смаленскі герб пасля страты гэтага горада ў 1514 на карысць Вял. княства Маскоўскага набыў характар герба-прэтэнзіі. Гэтыя ж гербы былі захаваны на вял. пячатках ВКЛ да Стафана Баторыя ўключна.





Герб «Пагоня» з надмагілля Ягайлы ў Кракаве. Канец 14 ст.

Аднак, як сведчыць т.зв. «літоўская» частка гербоўніка «Stemmata Połonica» 1-й пал. 16 ст., у часы Жыгімонта Старога і яго сына Жыгімонта Аўгуста існавала 12 зямельных гербаў ВКЛ. Іх стварэнне было абумоўлена фарміраваннем саслоўна-прадстаўнічай манархіі ў ВКЛ, у прыватнасці, такога яе інстытута ўлады, як вальны сойм. Зямельныя гербы на ім сімвалізавалі адзінства дзяржавы і тэрытарыяльныя межы юрысдыкцыі вял. князя літоўскага. Аднак у першую чаргу яны надавалі прадстаўнічы характар гэтым сходам, бо ў іх удзельнічалі вышэйшыя духоўныя і свецкія асобы дзяржавы, а таксама прадстаўнікі яе тэрытарыяльных адзінак.

Адміністрацыйная рэформа 1565–66 у ВКЛ акрамя афармлення новых ваяводстваў і паветаў закранула і зямельную геральдыку. Гербы былі падвергнуты уніфікацыі – усе паветы ВКЛ павінны былі ўжываць «Пагоню». У Статуце ВКЛ 1566 было запісана: «Теж мы Господарь даем под гербом того паньства нашого Великого князства Литовского Погонею печать до каждого повету». Закранула уніфікацыя і гербы ваяводстваў ВКЛ, прычым як старых, так і навастораных (Валынскага, Менскага, Мсціслаўскага, Берасцейскага, Брацлаўскага). Выключэнне склаў герб Лівоніі (Інфлянтаў), далучанай да ВКЛ у 1566. Жыгімонт Аўгуст надаў ёй статус княства і адметны герб: у чырвоным полі ўзняты сярэбраны грыф з мячом у правай лапе, на грудзях якога пераплеценыя залатыя літары «SA» («Sigismundus Augustus») пад залатой каронай.





Герб Смаленскага ваяв. з кнігі М. Амброзіуса «Arma Regni Poloniae». Антверпен. 1562.





Герб ВКЛ «Пагоня» з гербоўніка «Stemmata Polonica». Сярэдзіна 16 ст.



Герб «Пагоня» і зямельныя гербы Вялікага княства Літоўскага і Польшчы. Дрэварыт з кнігі «Канстытуцыі сойму вальнага каронрнага варшаўскага году Божага 1619». Вільня. 1619.



Герб «Пагоня» на ствале гарматы 16 ст.

Люблінская унія 1569 замацавала тэндэнцыю да уніфікацыі. У складзе Рэчы Паспалітай у зямельнай геральдыцы ВКЛ адбылося накладанне новых ваяводскіх гербаў з «Пагоняй», якія адрозніваліся паміж сабой толькі колерамі поля і выявы, на старыя зямельныя гербы. Так, у працах «Гняздо цноты» (1575) і «Гербы рыцарства польскага» (1584) Б.Папроцкі сцвярджаў, што «Пагоня» была гербам Віленскага, Троцкага, Віцебскага, Падляшскага, Берасцейскага, Мсціслаўскага і Менскага ваяводстваў. У перавыдадзенай у 1597 «Хроніцы» свайго бацькі М.Бельскага Я.Бельскі да іх дадаў яшчэ Полацкае ваяв. З гэтага шэрагу вылучаліся гербы тых ваяводстваў, якія ў 1569 былі адарваны ад ВКЛ і ўключаны ў склад Польшчы: «Ваяводства Валынскае ўжывае за герб крыж белы на чырвоным полі... Ваяводства Кіеўскае ўжывае за герб ангела белага на чырвоным полі». Акрамя гэтага, адзначалася, што «зямля Жамойцкая ўжывае мядзведзя чорнага ў белым ашыйніку ў чырвоным полі», Смаленскае ваяв., якое на той час знаходзілася ў складзе Расіі, «ужывае харугву чырвоную, жазло залатое ў полі шэрым», а «ваяводства Навагародскае... за герб ангела чорнага ў полі чырвоным».

Апісанні дзярж., ваяводскіх і павятовых харугваў ВКЛ змясцілі Я.Бельскі ва ўпамянутай «Хроніцы» і А.Гваньіні ў «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі» (1578, 1611). Паводле працы апошняга, дзярж. харугва ВКЛ мела 4 «рагі», была чырвонай з выявай «Пагоні» пад княжацкай мітрай на адным баку і з выявай Багародзіцы з дзіцем Ісусам у сонечных промнях на другім. Харугвы ваяводстваў былі з 2 «рагамі», а павятовыя – з адным. На ўсіх іх была змешчана «Пагоня».

Пасля інкарпарацыі ў 1569 у склад Польшчы Падляшша, Валыні і Кіеўшчыны ў іх гербы былі далучаны польскія белыя арлы, што падкрэслівала іх новую дзярж. прыналежнасць. Паводле гербоўніка К.Нясецкага «Карона польская» (1728), соймавая канстытуцыя 1589 «да крыжа [Валыні] Арла яму польскага надала». Падляшскае ваяв. атрымала герб: «З аднаго боку арол белы ў чырвоным полі, з другога боку звычайная Пагоня літоўская». Тады ж Брацлаўскаму ваяв. «месяц няпоўны і крыж за герб надалі».



Герб «Пагоня» і зямельныя гербы Польшчы на пячатцы Ягайлы. Пачатак 15 ст.

Тэрытарыяльныя страты, якія панесла ВКЛ у войнах з Масквой і пасля Люблінскай уніі з Польшчай, прывялі ў час праўлення Жыгімонта Вазы да вырабу вял. пячаткі дзяржавы з новым наборам гербаў. Да традыцыйных 3 «рускіх» гербаў, землі якіх апынуліся па-за юрысдыкцыяй вял. князя літоўскага, былі дададзены новыя. Геральдычная праграма вял. пячаткі ВКЛ уключала ўжо 9 зямельных гербаў. Імі былі: «Пагоня» пад княжацкай мітрай (герб Віленскага ваяв.), крыж (Валынскае ваяв.), рыцар з алебардай і шчытом (Троцкае ваяв.), харугва (Смаленскае ваяв.), алень (Полацкае ваяв.), «Спас» (Віцебскае ваяв.), архангел Міхаіл (Кіеўскае ваяв.), 2 чалавечыя постаці (Падляшскае ваяв.) і ўзняты мядзведзь у ашыйніку (Жамойцкае староства). Гэтыя зямельныя гербы паўтараюцца на вял. пячатках ВКЛ Уладзіслава IV і Яна II Казіміра.

Пачынаючы з вял. пячаткі ВКЛ Міхала Карыбута Вішнявецкага, да звыклага набору зямельных гербаў быў вернуты стары смаленскі герб з выявай мядзведзя, які ідзе. Ён захаваўся на вял. пячатках усіх наступных вял. князёў літоўскіх. Выкарыстанне старога смаленскага герба разам з гербамі з харугвай і жамойцкім мядзведзем сведчыць аб чарговым пераасэнсаванні некат. гербаў. Так, герб з выявай ангела стаў адносіцца да Навагародскага ваяв., таму ў якасці кіеўскага герба быў выкарыстаны мядзведзь, вядомы на кіеўскіх харугвах з 16 ст. Такім чынам, на вял. пячатках ВКЛ з 1669 па 1795 былі

Гербы ў кнігах Б.Папроцкага і І.Бельскага. Канец 16 ст.



«Калюмны»



Жамойцкага княства





Кіеўскага ваяв.



Навагародскага ваяв.



Смаленскага ваяв.









Харугвы паветаў ВКЛ: Троцкага, Гарадзенскага, Слонімскага. Канец 16 – пач. 17 ст. (апошняя рапаравана ў 1747).



Картуш з «Пагоняй» на карце ВКЛ, выдадзенай М.К.Радзівілам Сіроткай. Амстэрдам. 1613.

прадстаўлены гербы Жамойці, Віленскага, Валынскага, Троцкага, Смаленскага, Полацкага, Віцебскага, Новагародскага, Падляшскага і Кіеўскага ваяводстваў.

*Літ.*: Gumowski M. Pieczęcie królów polskich. Kraków, 1919; Яго ж. Pieczęcie książąt litewskich // Atheneum Wileńskie. 1930. Z. 3–4; *Stemmata Połonica*: Rękopis nr 1114 *Klejnotów* Długosza w Bibliotece Arsenału w Paryżu / Wyd. H.Polaczkówna // Prace Sekcji historii sztuki i kultury Towarzystwa naukowego we Lwowie. Lwów, 1929. T. 1; Heymowski A. Herby polskie w sztokholmskim *Codex Bergshammer* // Studia źródłoznawcze. Warszawa; Poznań, 1967. T.12; Яго ж. Herby polskie w brukselskim *Armorial Gymnich, recte Lyncenich* // Там жа. 1985. Т. 29; Румянцева В.В. Эмблемы земель и гербы городов Левобережной Украины периода феодализма. Киев, 1986; Цітоў А. Наш сімвал Пагоня: Шлях праз стагоддзі. 2 выд. Мн., 1993; Яго ж. Пячаткі старажытнай Беларусі: Нарысы сфрагістыкі. Мн., 1993; Kuczyński S.K. Polskie herby ziemskie: Geneza, treści, funkcje. Warszawa, 1993; Шаланда А. Зямельныя гербы Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў XIV–XVIII ст. // Герольд Litherland. 2001. № 1–2.

***Аляксей Шаланда.***




Пячаткі князёў Вітаўта (уверсе) і Карыбута. Канец 14– пач. 15 ст. Гравюра сярэдзіны 19 ст.

## дэмаграфія, заселенасць

Утварэнне ВКЛ у 13–14 ст. адбывалася на фоне серыі глыбокіх дэмаграфічных крызісаў, якія закранулі ўсю Усх. Еўропу. Татарскае нашэсце ў 1239–42 і наступныя карныя паходы (на Беларусі і Літве асабліва паход Бурундая 1258) не толькі прывялі да фізічнага вынішчэння мноства людзей, але прынеслі з Цэнтр. Азіі новыя эпідэмічныя захворванні. Іх вынікам было таксама разбурэнне паліт. і гандлёвай сістэмы Кіеўскай Русі, што адкрыла шлях да росту лакальных канфліктаў, абмежавала магчымасці падвозу харчавання ў выпадку неўраджаяў і ўскладніла процідзеянне рабаўнічым набегам літоўцаў. Шчыльнасць насельніцтва мусіла істотна паменшыцца ў параўнанні з пач.13 ст., калі яе вельмі прыблізна можна ацаніць у 4–6 чал./км$^2$. Тэрыторыі, непасрэдна сумежныя з Залатой Ардой, абязлюдзелі практычна цалкам. Стварэнне новай устойлівай сістэмы ў межах ВКЛ расцягнулася да сярэдзіны 14 ст. і супала са з'яўленнем новай інфекцыі – лёгачнай чумы, якая таксама трапіла ў Еўропу з Азіі праз тэр. Арды. У Зах. Еўропе чума скараціла насельніцтва прыблізна напалову. Падставы для колькасных ацэнак ва Усх. Еўропе адсутнічаюць, але якасную ацэнку дае Ніканаўскі летапіс пад 1364: «И бысть скорбь великая по всей земле, и опусте вся земля и порасте лесом, и бысть пустыни всюду непроходимые». У наступныя дзесяцігоддзі ўспышкі эпідэміі неаднаразова паўтараліся. Праявы дэмаграфічнага крызісу адчуваліся на працягу ўсяго 15 ст., аб чым сведчаць пісьмовыя і археал. звесткі (слабая выражанасць культурнага слоя амаль ва ўсіх гарадах, малыя колькасць і памеры сельскіх паселішчаў). На тэр. Беларусі і Літвы шчыльнасць насельніцтва ў канцы 14 ст. можна ацаніць каля 2 чал./км$^2$, ва ўкр. уладаннях ВКЛ яна была ніжэй за 1 чал./км$^2$ і зыходзіла амаль да нуля ў стэпах паўн. Прычарнамор'я, якія атрымалі назву Дзікае поле. Агульную колькасць насельніцтва ВКЛ у межах 1385 можна вызначыць меней за 1 млн. чал., з іх на тэр. Беларусі жылі каля 400 тыс., на тэр. Літвы – ад 100 да 200 тыс. чал. Да пач. 16 ст. насельніцтва Беларусі, магчыма, дасягнула 700–800 тыс. чал.

На працягу 16–1-й пал. 17 ст. ў цэлым адбываўся ўстойлівы рост насельніцтва, які запавольваўся ў час войнаў. Для гэтага перыяду ёсць шэраг крыніц, якія прама ці ўскосна дазваляюць вызначыць колькасць двароў (дымоў) на пэўных тэрыторыях: пісцовыя кнігі Полацкай зямлі (1552), Клецкага княства (1552–55), Пінскага старасства (1552–55 і 1561–66), інвентары Мазырскай (1552), Гомельскай, Свіслацкай і часткі Магілёўскай (1560) валасцей, Берасцейскай эканоміі (1566) і шэрагу інш. буйных маёнткаў, а таксама попісы войска ВКЛ 1528 і 1567, у якіх ускосна адлюстравана колькасць службаў у шляхецкіх маёнтках на большасці тэр. ВКЛ. Перавод гэтых лічбаў у непасрэдную колькасць насельніцтва патрабуе шэрагу дапушчэнняў, таму ўсе разлікі на іх падставе застаюцца гіпатэтычнымі. Адна з праблем – сярэдняя населенасць двара. Паводле выбаркі інвентароў 2-й пал. 16–1-й пал. 17 ст., прааналізаванай З. і Б.Капыскімі, у 5663 сялянскіх дварах налічвалася 6969 малых сем'яў, што дае 1,2 шлюбнай пары на двор і блізка адпавядае аднач асовым звесткам пісцовых кніг Вялікага Ноўгарада (1,3 шлюбнай пары). Пры такой структуры ў адным двары мусіла быць 5,5–6 чал. Паводле



Голад 1571 у ВКЛ. Гравюра з аўгсбургскага «лятучага лістка». Паказаны сцэны людаедства.

рэестра сярэбшчыны за 1553, шэраг уладанняў Віленскага біскупства ў Менскім павеце, плошчай па 50–100 км$^2$ кожнае, мелі прыблізна па столькі ж дывароў, што азначае шчыльнасць да 6 чал./км$^2$. У паліт. цэнтры дзяржавы (Віленскі, Ашмянскі і прылеглыя да іх часткі сумежных паветаў) шчыльнасць насельніцтва мусіла быць вышэйшай – да 10 чал./км$^2$. Бліжэй да перыферыі яна паніжалася. Сельскае насельніцтва Полацкай зямлі (22 тыс. км$^2$) у 1552 налічвала больш за 7,6 тыс. двароў, гарадское – больш за 1,7 тыс. двароў, што дае разам 52–56 тыс. чал., або каля 2,5 чал./км$^2$. Пры гэтым большасць жыхароў канцэнтравалася ў паўд. частцы зямлі, на левабярэжжы Дзвіны, шчыльнасць там была каля 5 чал./км$^2$, а ў Задзвінні – каля 1 чал./км$^2$. У Мазырскай вол. (3,5 тыс. км$^2$) у 1552 было каля 800 двароў, у горадзе – 267, што дае 6–6,4 тыс. чал. (1,7–1,8 чал./км$^2$). Яшчэ радзей была заселена ўскраінная Гомельская вол., у 1537 адваяваная ў Маскоўскай дзяржавы. У 1560 там на плошчы 4,5 тыс. км$^2$ налічвалася 202 двары і крыху больш за 1 тыс. чал., што дае шчыльнасць менш за 1 чал. на 3 км$^2$. Ацэнкі на падставе попісаў 1528 і 1567 грунтуюцца на шэрагу гіпатэтычных параметраў: дакладнасці, з якой пэўная колькасць коннікаў адпавядала колькасці службаў падданых (у 1528 яна мусіла адпавядаць 8 службам, у 1567 – 10, але невядома, як было на самой справе); суадносінах паміж службамі і дварамі (ацэнкі вагаюцца ад 2 да 3 двароў на 1 службу); уліку колькасці двароў у гарадах, а таксама ў дзярж. і царк. маёнтках, з якіх коннікі ў войска не выстаўляліся (у 1567 на тэр. Беларусі такія маёнткі займалі каля $^1/_3$ агульнай плошчы, але больш было на ўскраінах дзяржавы, таму доля іх насельніцтва магла быць меншай); нарэшце, у кожным попісе адсутнічаюць звесткі па некат. паветах (у 1528 – па Аршанскім, Кіеўскім, Мазырскім, Рэчыцкім і Падоллі, у 1567 – па большасці Аршанскага і Рэчыцкага, цалкам па Віцебскім, Кіеўскім, Полацкім паветах, Падоллі). Можна прыняць, што ў 1528 насельніцтва ВКЛ складала крыху больш за 2 млн. чал., з іх на тэр. Беларусі каля 1 млн. чал. (пры сярэдняй шчыльнасці 4,3 чал./км$^2$), Літвы 550 тыс. чал. (9,4 чал./км$^2$), на Падляшшы 160 тыс. чал. (14,1 чал./км$^2$), на Украіне 220 тыс. чал. (1,6 чал./км$^2$). Пры гэтым колькасць шляхты (разам з сем'ямі) складала прыблізна 50 тыс. чал., гар. насельніцтва – 200–250 тыс. чал. Да 1567 насельніцтва ВКЛ вырасла прыкладна да 3 млн. чал., пры гэтым на Беларусі, асабліва на ўскраінах, прырост мог быць больш інтэнсіўны, чым у Літве. На тэрыторыі, што засталася ў складзе ВКЛ пасля Люблінскай уніі, колькасць насельніцтва на 1569 можна ацаніць у 2,6 млн. чал., з іх каля 1,8 млн. чал. на Беларусі і 0,8 млн. чал. у Літве.

Перыяд дэмаграфічнага росту працягваўся да сярэдзіны 17 ст., але больш нізкімі тэмпамі, бо шчыльнасць насельніцтва ў Літве і паўн.-зах. Беларусі наблізілася да максімуму, які забяспечваўся тагачасным узроўнем гаспадаркі – 16–20 чал./ км². Дэмаграфічныя разлікі на 1650 прапанаваў польскі даследчык Ю.Можы, абапіраючыся на зводную статыстыку тарыфаў падымнага падатку. Пры гэтым ён завысіў населенасць 1 дыма, прымаючы яе роўнай 8 чал. Масавы аналіз інвентароў сведчыць, што ў 2-й пал. 17–18 ст. на двор прыпадала ў сярэднім 1,5 шлюбнай пары, або 6,5–7 чал. Такая папраўка да разлікаў Можы дае лічбу насельніцтва ВКЛ на 1650 (без Інфлянтаў, Смаленскага і Старадубскага пав.) каля 3,1 млн. чал., з іх у Літве – каля 920–950 тыс. чал., у пераважна бел. паветах – 2,1 млн. чал. (плошча гэтых паветаў складала 245 тыс. км², апрача Беларусі яны ахоплівалі 4,7 тыс. км² тэрыторыі сучаснай Літвы і 33 тыс. км² Расіі, Украіны і Польшчы). Шчыльнасць насельніцтва ў Літве была каля 16 чал./ км², у сярэднім па Беларусі – больш як 8,5 чал./ км², пры гэтым яна змянялася ад 17 чал./ км² у Берасцейскім і Ваўкавыскім пав. да 2,8 чал./ км² у Мазырскім і 1 чал./ км² – у Рэчыцкім (гэтыя паветы пацярпелі ў час казацкіх нападаў у 1648–49). Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 выклікала сапраўдную дэмаграфічную катастрофу. Трывалае насельніцтва ВКЛ скарацілася ў 1667 да 1,7 млн. чал., у некат. паветах – у 2–3 разы. У пераважна бел. паветах засталося крыху больш за 1,1 млн. чал. Праўда, не ўлічанымі застаюцца бадзягі і жабракі, колькасць якіх у пасляваенныя гады, магчыма, дасягала дзесяткаў і нават сотняў тысяч. Наступнае паўстагоддзе было часам, калі колькасць насельніцтва моцна вагалася. Яна павольна аднаўлялася да ўзроўню 2,5 млн. чал. (на Беларусі – 1,9 млн. чал.) у 1690, а да канца 17 ст. – прыблізна да 2,8 млн. чал., але ў час Паўночнай вайны 1700–21 была зноў адкінута да ўзроўню 1660-х г. – 2 млн. чал., з іх на Беларусі – 1,5 млн. чал.



Парсюк-пачвара, народжаны ў Вільні ў 1562; успрымаўся як знак вайны. Тагачасны малюнак.

Новы перыяд трывалага дэмаграфічнага ўздыму пачаўся ў 1730-я г. і працягваўся да канца існавання ВКЛ. Дэмаграфічныя параметры 2-й пал 18 ст. можна высветліць з дапамогай метрычных кніг і тарыфаў падымнага. Нараджальнасць у гэты час вагалася на ўзроўні 55–60 праміле, смяротнасць – ад 45 да 50 праміле, што забяспечвала штогадовы прырост ад 1 да 1,5%. Колькасць насельніцтва дасягнула ўзроўню сярэдзіны 17 ст. ў канцы 1760-х г., але на гэты раз у Літве было каля 740 тыс. чал., у пераважна бел. паветах – каля 2,4 млн. чал. У 1772 да Расіі адышла тэрыторыя плошчай каля 73 тыс. км² з насельніцтвам 1,1 млн. чал. (без уліку Інфлянтаў). Плошча ВКЛ скарацілася да 229 тыс. км², з іх у пераважна бел. паветах – 171 тыс. км². Яго насельніцтва складала ў 1772 каля 2,1 млн. чал., у бел. частцы – 1,4 млн. чал. Напярэдадні 2-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1792 у ВКЛ налічвалася 3,3 млн. чал., у т.л. ў пераважна бел. паветах – 2,35 млн. чал. Гар. насельніцтва складала 275 тыс. чал., альбо 11,7% жыхароў бел. паветаў. Шчыльнасць насельніцтва найбольшай была ў застаўшайся частцы Полацкага пав., у Берасцейскім, Ваўкавыскім, Гарадзенскім і Лідскім паветах – на ўзроўні 19–20 чал./ км². У Ашмянскім пав. яна дасягала 17, у Браслаўскім, Навагародскім, Слонімскім і застаўшайся частцы Аршанскага пав. – 13–14, у Менскім, Пінскім і застаўшайся частцы Рэчыцкага пав. – 9–11, у Мазырскім пав. – менш як 5, у Літве – каля 16 чал./ км². На тэрыторыі, што належала Расіі, было ў той час 1,37 млн. чал., у т.л. ў гарадах 130 тыс. чал., ці 9,5%. Сярэдняя шчыльнасць насельніцтва там была каля 19 чал./ км², а па ўсёй Беларусі – 15,3 чал./ км².

*Літ.*: Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w 2 połowie XVII wieku. Poznań, 1965; Ochmański J. Zaludnienie Litwy w roku 1790 // Zeszyty naukowe Uniwersytetu im. Adama Mickiewicza. Historia. 1967. Z. 7; Карпачев А.М., Козловский П.Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII–XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1968 г. Л., 1972; Jasas R., Truska L. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystes gyventojų surašymas 1790 m. Vilnius, 1972; Капыскі З, Капыскі Б. Беларуская вёска і яе насельніцтва ў канцы XVI–першай палове XVII стст.: Вопыт дэмаграфічнай характарыстыкі // Бел. гіст. часопіс. 1993. № 2; Łowmiański H. Zaludnienie państwa litewskiego w wieku XVI. Zaludnienie w roku 1528. Poznań, 1998.

***Вячаслаў Насевіч.***

## народы і мовы

У 8–9 ст. славяне Усх. Еўропы падзяляліся на 13–15 т.зв. племянных княжанняў. На тэр. Беларусі гэта былі *крывічы* (палачане), *дрыгавічы* і радзімічы. На З і ПнЗ іх суседзямі былі балцкія плямёны. *Яцвягі* займалі тэр. сучаснай зах. Беларусі, паўн.-ўсх. раёны Польшчы, паўд. раёны Літвы. Пануе думка, што яцвягі падзяляліся на 4 буйныя плямёны. У паўн. частцы іх тэрыторыі жыла *дайнава* – суседка літоўцаў; у паўн.-зах. – судава (зямля *Судовія*), тэрыторыя якой межавала з надравой і *борцямі;* у паўд.-зах. частцы, на р. Элк (Лыха), жылі паляксяне – суседзі галіндаў і мазаўшан; у цэнтр. і ўсх. частках – уласна яцвягі, якія раней за ўсіх сутыкнуліся з пашыраючай у 10–11 ст. сваю ўладу Кіеўскай Руссю, а пазней – з галіцка-валынскімі князямі. Маглі быць і больш дробныя яцвяжскія плямёны, найменні якіх, аднак, не захаваліся. Яцвягі не імкнуліся аб'яднацца, стварыць сваю дзяржаву, а літ. кн. Міндоўг не жадаў далучаць іх да сваёй дзяржавы. Яны былі аб'ектам нападаў з боку галіцка-валынскіх, польскіх і літ. князёў, а таксама крыжакоў. У канцы 13 ст. Нямецкі ордэн канчаткова спустошыў яцвяжскія землі: частка іх насельніцтва была знішчана, частку крыжакі вывелі ў няволю, некаторых пасялілі ў Самбіі, на З ад Караляўца (Кёнігсберга), іншыя ўцяклі ў Літву.

На У і ПнУ ад яцвягаў размяшчалася *Літва*. Гэта быў шматлікі балцкі народ. Даследчыкі звязваюць Літву 11 ст. з археалагічнай культурай усходнелітоўскіх курганоў, арэал якой ахоплівае тэр. ад сярэдняга цячэння р. Нёман і р. Швянтойі да Svіра, Паставаў, Маладзечна. У межах арэала Літвы ці па суседстве лакалізуюцца *Аўкштайція*, Дзяволтва і Нальшчаны.

На З ад Літвы ляжала *Жамойць*. Паводле пісьмовых звестак, там існавалі такія ж тэр. адзінкі, як у землях самастойных балцкіх народаў (Цекліс, Коршаў і інш.), што дазваляе лічыць яе насельніцтва не малым племем, а асобным вял. этнасам. Некат. групы жамойтаў, ратуючыся ад крыжакоў, мігрыравалі на тэр. суседняй Аўкштайціі, Беларусі, Польшчы. З 1413 (афіцыйная дата прыняцця жамойтамі хрысціянства) да сярэдзіны 16 ст. жамойты былі паступова хрысціянізаваны літ., польскімі і бел. каталіцкімі місіянерамі.

Этнічная мяжа паміж Літвой і зах. землямі Русі праходзіла прыкладна па сучаснай лініі Браслаў–Паставы–Смаргонь–Ліда (далей Русь межавала з яцвяжскім племем дайнава). Яе перасякалі плыні міграцыі: асобныя літ. сем'і сяліліся на рус. землях, а рускія – на літоўскіх. Пазней, пасля ўтварэння ВКЛ, слав. каланізацыя берагоў Віліі яшчэ больш узмацнілася. Адначасова са слав. каланізацыяй Літвы літоўцы прасоўваліся на землі панямонскіх княстваў (таксама магчыма, што рус. князі сялілі іх там як ваеннапалонных). Шэраг вёсак з назвай Літва ў вярхоўях Нёмана мае менавіта такое паходжанне. У 1216 полацкі кн. Уладзімір для паходу на крыжакоў сабраў войска, якое напалову складалася з літоўцаў. У сярэдзіне 19 ст. жыхары некат. вёсак Ашмянскага, Лідскага і Слонімскага паветаў карысталіся яшчэ літ. мовай. Беларусізацыя груп літ. насельніцтва працягвалася да 1920–30-х г. Летапіс паведамляе, што ў 1276 пад націскам



крыжакоў у раёны Гародні, Слоніма, Камянца, Турыйска эмігрыравалі вял. групы заходнябалцкіх плямён борцяў і прусаў. Літ. насельніцтва трапляла і на землі сучаснай усх. Беларусі. Рэтраспектыўнае вывучэнне гісторыі адной з такіх экстэрытарыяльных груп літоўцаў, якія жылі ў воласці Абольцы сучаснага Талачынскага р-на Віцебскай вобл. і ў Гайне Лагойскага р-на Мінскай вобл., зрабіў Е.Ахманскі. Польскі храніст Я.Длугаш адзначыў заснаванне ў Абольцах у 1387 Ягайлам касцёла (з 8 заснаваных у ВКЛ у той час касцёлаў толькі 2 былі размешчаны на землях сучаснай Беларусі і адзін з іх – у Абольцах). Грунтуючыся на гіст. і лінгвістычных даных, Ахманскі паказаў, што ў 14 ст. там сапраўды пражывала дастаткова кампактная група літоўцаў, якая паступова ў 16 ст. была ўцягнута ў працэс асіміляцыі. Актыўную асіміляцыю літоўцаў, якія пражывалі ў межах асн. этнічнага масіву беларусаў, пацвярджаюць і інш. матэрыялы. Паступовай славянізацыі літоўцаў садзейнічалі іх паходы на Полаччыну, якія пачаліся з канца 12 ст. У маладосці ў паходах на Русь мог удзельнічаць літ. князь Міндоўг. У набегах ён прыглядаўся да жыцця суседзяў, грамадскі лад якіх знаходзіўся на больш высокім узроўні. Магчыма, тады ў яго з'явіліся асабістыя сувязі з князямі і баярамі суседніх рус. княстваў. У «Летапісцы Вялікага княства Літоўскага» неаднаразова звяртаецца ўвага на такі сродак умацавання ўлады літ. князёў на Русі, як шлюбныя сувязі з прадстаўнікамі мясц. княжацкіх родаў. Адзначаюцца таксама факты прыняцця князямі праваслаўя і «наукі

Карта ВКЛ, створаная Г.Меркатарам. 3 кн. «Atlas sive cosmographicae meditationes». Дуйсбург. 1595. Першая карта, якая паказвае ВКЛ асобна ад іншых краін Еўропы.





Адкуль вярнуліся літвіны? Гравюра М.Э.Андрыёлі да паэмы А.Міцкевіча «Конрад Валенрод». 1879.

языка рускaго» (бел. мовы). У ліку першых прыняў правасл. веру сын Міндоўга Войшалк пасля ўцёкаў у 1246 з Літвы ў Навагародак. Нашчадкі вял. князя Гедзіміна насілі правасл. славянскія імёны Фёдар, Міхаіл, Юрый, Аляксандр, Патрыкей, Андрэй, Дзмітрый, Уладзімір, Канстанцін, Сямён, Лазар, Васіль, Іван, Раман, Ян, Леў, Васіль. У летапісах 15–16 ст. літ. князі, якія прынялі правасл. веру, не раз называюцца «русінамі». Значным фактарам славянізацыі літ. князёў было пашырэнне межаў ВКЛ, у якім пераважаў ўсх.-слав. (бел. і ўкр.) этнас. Стаўшы на чале пераважна слав. княства або асобных яго рэгіёнаў, літ. князі ўспрымалі бел. мову і культуру.

Размежаванне літ. і слав. арэалаў у ранні час існавання ВКЛ з-за складанай моўнай сітуацыі – даволі цяжкая задача: «усходняя мяжа тэрыторыі літоўскай мовы вельмі няясная», адзначае літ. лінгвіст З.Зінкявічус. Уздоўж усёй мяжы Літвы і Беларусі цягнецца ланцужок астраўных літ. гаворак, акружаных цяпер бел. асяроддзем. У старажытнасці іх было яшчэ больш. Зінкявічус разглядае літ. анклавы на Беларусі як частку сістэмы дыялектаў літ. мовы. Гаворкі Пелясы, Воранава, Радуні і Рамашканцаў з'яўляюцца часткай масіву паўднёвааўкштайцкіх гаворак. На З ад в. Дзевянішкес па тэр. Беларусі праходзіць мяжа паміж паўднёвааўкштайцкім дыялектам і віленскімі гаворкамі ўсходнеаўкштайцкага дыялекта, бел. часткай масіву якіх з'яўляецца невял. паласа тэрыторыі паміж вёскамі Рамашканцы і Дзевянішкес. Часткай віленскіх гаворак усходнеаўкштайцкага дыялекта з'яўляецца таксама гаворка в. Лаздуны Іўеўскага р-на і в. Гервяты Астравецкага р-на Гродзенскай вобл., а таксама в. Опса Браслаўскага р-на Віцебскай вобл. На Пд ад Ліды знаходзіўся масіў пашырэння заходнеаўкштайцкіх (шаўляйскіх) гаворак – Дзятлава і Засецце. Гэта пацвярджае аўтахтоннасць насельніцтва літ. анклаваў на Беларусі.

Ваяры Вялікага княства Літоўскага.. Гравюра 19 ст.



Працяглае суіснаванне карэннага балцкага насельніцтва з прыбылымі славянамі абумовіла фарміраванне ў мове першага значнага па аб'ёме слав. суперстрату, а ў мове-пераемніцы другіх – балцкага лексічнага субстрату. Вынікі гэтых кантактаў аказаліся асіметрычнымі: у той час як у стараліт. мове словы бел. паходжання склалі значны пласт, у старабеларускай літоўскі лексічны струмень абмежаваўся ўсяго чатырма дзесяткамі адзінак. Такая асіметрычнасць тлумачыцца дзярж. статусам



Літоўцы Прускага герцагства. Гравюра з кнігі Т.Лепнера «Пруськія літоўцы, або Уводзіны ў паходжанне імён, хрышчэнне дзяцей, шлюб...». Гданьск. 1744. Кніга Лепнера (1633–91) – даследаванне культуры Малой Літвы, утрымлівае багаты этнаграфічны матэрыял, літоўскія тэксты.

старабел. мовы ў ВКЛ, абумоўленым шматразовай перавагай слав. насельніцтва над балцкім у аб'яднанай балта-славянскай дзяржаве.

Длугаш у сваёй хроніцы першы змясціў легенду аб рымскім паходжанні літ. знаці. Потым яна была ўключана ў бел.-літ. летапісы. Яе імкнуўся пацвердзіць у сваім трактаце «Пра норавы татараў, літвінаў і маскавітаў» літ. паліт. дзеяч 16 ст. Міхалон Літвін. Адначасова ён выказаўся супраць ужывання старабел. мовы ў якасці афіцыйнай. Першая кніга на літ. мове – пратэстанцкі «Катэхізіс» М.Мажвідаса – выдадзена ў Караляўцы ў 1547. Да канца 16 ст. ў Прусіі надрукавана 16 кніг на літ. мове (без уліку 4 загадаў герцага Альбрэхта). Буйнейшым выданнем была «Пасціла» Ё.Брэткунаса. У 16 ст. ў Прусіі створана значная колькасць літ. рукапісаў, самы значны з якіх пераклад Бібліі Брэткунаса. Пашырэнне ў Літве літ. кніг, выдадзеных у Караляўцы, было вельмі нязначным з-за іх вельмі малых тыражоў. У 1595 у Вільні на літ. мове надрукаваны каталіцкі катэхізіс, у 1598 – кальвінісцкі польска-літ. катэхізіс М.Пяткевіча, у 1599 – «Пасціла» М.Даўкшы, у 1600 – «Пасціла» М.Рэя ў перакладзе з польскай Я.Маркунаса. У сярэдзіне 17 ст. з'явіліся друкаваныя граматыкі Д.Клейна (1633 і 1654), К.Сапунаса і Т.Шульца (1673), якія заклалі аснову для далейшага апісання літ. мовы.

Пэўны ўдзел у фарміраванні моўнай сітуацыі ў ВКЛ прымалі і латышскія гаворкі (гл. *Латышы*). Так, на тэр. латгалаў знаходзіўся старажытны полацкі горад Герцыке, дзе з латгаламі суіснавалі і групы ўсх.-слав. насельніцтва. Генрых Латвійскі ў сваёй «Хроніцы Лівоніі» адзначаў, што ў горадзе было некалькі правасл. цэркваў. Паколькі тэрмін «латгалы» захаваўся ў назвах некалькіх вёсак на Віцебшчыне, то можна меркаваць, што ў канцы 1-пач. 2-га тыс. латгалы жылі ўперамежку са славянамі на тэр. цяперашняй паўн.-ўсх. Беларусі. Ёсць падставы меркаваць, што прыбалтыйскія купцы, а таксама сем'і сялян, што ратаваліся ад крыжакоў, з'явіліся на бел. землях ў 13 ст. У 1373 полацкі кн. Андрэй Альгердавіч прыйшоў з дружынай пад Дынабург, захапіў там шмат людзей і павёў іх з сабой. Паміж латгаламі і беларусамі былі і цесныя гандлёвыя сувязі. Полацкія, смаленскія і віцебскія купцы мелі ў Рызе сваю калонію, насялялі асобны «канец» – квартал. Рыжскі магістрат, зацікаўлены ва ўмацаванні гандлёвых сувязей з суседзямі-беларусамі, вырашыў пабудаваць для іх царкву з падпарадкаваннем архіепіскапу полацкаму. Купцы-лівонцы таксама мелі гандлёвыя прадстаўніцтвы ў бел. гарадах. У выніку гэтых кантактаў беларусы засвойвалі мову мясц. жыхароў Лівоніі, а лівонцы пашыралі яе сярод бел. насельніцтва. Для схілення мясц. язычніцкага насельніцтва ў хрысціянства нямецкія місіянеры ў Прыбалтыцы падрыхтавалі першыя кнігі для латышоў і эстаў. Першая кніга на латышскай мове «Нямецкая імша» надрукавана ў 1525 у Германіі, але ў Латвію не трапіла. У 1585 у Вільні па-латышску надрукаваны каталіцкі катэхізіс, у 1586 у Караляўцы – «Малы катэхізіс» М.Лютэра.



MICHALONIS LITVANI
DE MORIBVS
TARTARORVM,
LITVANORVM ET MOSCHORVM, FRAGMINA X.
multiplici Historia referta.
ET,
IOHAN. LASICII POLONI
DE DIIS SAMAGITARVM,
CÆTERORVMQ. SARMATARVM,
ET FALSORVM CHRISTIANORVM,
Item
DE RELIGIONE ARMENIORVM.
Et de initio Regiminis Stephani Batorij.
Nunc primùm per
I. IAC. GRASSERVM, C.P.
ex Manuscripto Authentico edita.
BASILEÆ,
Apud CONRADVM WALDKIRCHIVM.
M DC XV.

Кніга гуманіста 16 ст. Міхалона Літвіна «Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў». Базель, 1615.

Побач з беларускай на тэр. ВКЛ ад самага пачатку развівалася і *украінская мова*. Дагэтуль ідзе дыскусія адносна таго, якая ўсх.-слав. мова (ці адзіная ўсходнеславянская) была дзяржаўнай у ВКЛ. Укр. мовазнаўцы вызначылі крытэрыі размежавання ўкр. і бел. пісьмовых помнікаў. На думку У.В.Анічэнкі, сілу навук. доказу набыла тэорыя, паводле якой на Беларусі і Украіне вельмі рана ўзніклі асобныя жывыя нар. мовы з характэрнымі для кожнай з іх асаблівасцямі і здаўна развіваліся і прадаўжаюць развівацца паводле ўласцівых ім унутраных законаў. У 16–18 ст. беларусы і ўкраінцы называлі сваю родную мову «рускай». Аднак да сярэдзіны 17 ст. ўсё мацней пачала праяўляцца тэндэнцыя да дыферэнцыяцыі. Укр. і бел. мовы ў часы ВКЛ розныя ўжо хаця б таму, што ўзніклі на розных субстратах (беларуская – на балцкім, украінская – на пакуль нявысветленым). Асобныя рысы жывой укр. мовы зафіксаваны ўжо ў помніках 12 ст. Пранікненню ўкраінізмаў у старабел. пісьмовыя помнікі ў 16–17 ст. садзейнічалі аўтары (пісцы), якія паходзілі з Украіны, але пісалі свае творы на бел. і літ. землях – Л.Зізаній,

М.Сматрыцкі і інш. Тэксты з сумежных тэрыторый капіраваліся не стэрэатыпна, а ў адпаведнасці з нормамі мясц. пісьмова-літаратурнай мовы, што дазваляе гаварыць пра бел.-укр. ўзаемапераклад, а значыць, і пра асобныя старабел. і стараўкр. мовы, а паколькі сярод перакладаемых значацца і агульнадзярж. дакументы (Статуты ВКЛ 1566 і 1588), то ўкр. мова выступае як афіцыйная рэгіянальная.

Каб адрозніваць ад бел. і ўкр. моў мову Вял. княства Маскоўскага, яе называлі «маскоўскай», прычым не толькі жыхары ВКЛ (Я.Ласіцкі) і самі маскавіты, але і прадстаўнікі інш. краін (латвійскі перакладчык малітвы «Ойча наш» на 40 моў свету, у т.л. і на маскоўскую, І.Ройтэр і П.Одэрборн). У эпоху Маскоўскай дзяржавы значна выраслі структурныя адрозненні паміж маскоўскай гутарковай і маскоўскай літаратурнай мовамі. Дзелавыя мовы Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ грунтаваліся на жывой гутарковай мове, аднак кожная на сваёй, што і абумовіла неабходнасць перакладу Статута ВКЛ у Маскоўскай дзяржаве на сваю дзелавую мову. Адрозненні паміж маскоўскай і бел. мовамі засведчаны сучаснікамі. Імпарцёрамі ўзораў і навыкаў маскоўскага пісьма ў ВКЛ былі маскоўскія ратнікі, якія траплялі ў палон у час войнаў, вольныя перасяленцы-ерэтыкі (Арцемій, Ф.Касой і інш.), паліт. эмігранты з Масквы, Цверы, Ноўгарада, Пскова і інш., у т.л. прадстаўнікі княжацкіх родаў Мажайскіх, Адоеўскіх, Варатынскіх, Серпухаўскіх, Масальскіх, А.Курбскі і інш. Маскоўскае пісьмо пачало афіцыйна функцыянаваць на бел. землях з 1560-х г. Ім карысталася маскоўская адміністрацыя на тэрыторыях, захопленых у ходзе Інфлянцкай вайны 1558–82 і вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67. Пазней у ВКЛ імігрыравалі *стараабраднікі*. Сучасныя даследаванні паказваюць, што па сваёй дыялектнай прыналежнасці рус. гаворкі Беларусі прадстаўлены 2 вял. групамі: адна з іх носіць ярка выражаны паўд.-рус. характар (рус. вёскі Веткаўскага і Добрушскага р-наў), другая – пскоўскія гаворкі, носьбіты якіх выяўлены ў розных абласцях Беларусі (Жлобінскі, Барысаўскі, Браслаўскі р-ны).



Евангелле ад Марка. Беларускі рукапіс 16 ст.

Пасля хрышчэння Русі на землі ўсх. славян пранікаюць рэліг. творы на стараслав. мове, якая ўяўляла сабой салунска-македонскі дыялект старажытнабалгарскай мовы. Функцыянаванне *царкоўнаславянскай мовы* ў ВКЛ прывяло да ўзнікнення яе бел. варыянта (рэдакцыі, зводу). Узорамі гэтага зводу з'яўляюцца: «Жыціе Ефрасінні Полацкай» (14 ст.), выданні Ш.Фіёля «Актоіх», «Часаслоў» (1491), «Трыёдзь каляровая», «Трыёдзь посная» (1493), Чэцця 1489, выданні Ф.Скарыны і інш. Імкнучыся выдаць Біблію на зразумелай для землякоў-беларусаў мове, Скарына прычыніўся да стварэння бел. рэдакцыі царкоўнаслав. мовы, надаўшы традыцыйнай мове правасл. царквы бел. афарбоўку на ўсіх узроўнях мовы – пісьма, граматыкі, сінтаксісу, лексікі, разам з тым захаваўшы ў сілу мясц. абставін традыцыйную моўную аснову Бібліі. Асаблівасці мовы выданняў Скарыны абумоўлены таксама і складам крыніц, якімі ён карыстаўся. Аднак рэфармацыйная ініцыятыва ўсх.-слав. першадрукара з-за няспеласці ўмоў для Рэфармацыі не знайшла поўнага разумення на радзіме. У 2-й пал. 16 ст., калі Рэфармацыя на бел., літ. і ўкр. землях стала здабыткам грамадскай свядомасці, справу Скарыны давялі да канца яго паслядоўнікі – С.Будны і В.Цяпінскі, якія, увёўшы бел. мову ў сферу кананічных тэкстаў, узнялі яе да ўзроўню царкоўнаславянскай. Пасля правасл. царква ў ВКЛ уступіла ў перыяд свайго заняпаду. Звузілі кола носьбітаў царкоўнаслав. моўнай кампетэнцыі і заключэнне Берасцейскай царк. уніі (1596), паступовая вестэрнізацыя уніяцкага веравызнання. Вынікам дзейнасці брацтваў, якія ў 16 ст. правасл. гараджане арганізавалі для выпраўлення становішча ў сваёй царкве, было стварэнне брацкіх школ і друкарняў. Яны друкавалі граматыкі і слоўнікі царкоўнаслав. мовы – гэта была рэакцыя на дэмакратызацыю пісьма і спроба прадухіліць яго секулярызацыю.



Апошняя старонка кнігі «Актоіх», надрукаванай у Кракаве Ш.Фіёлем. 1491.

Пасрэднікамі ў перадачы *польскай мовы* і культуры былі найперш перасяленцы з Польшчы. Яны з'явіліся на землях ВКЛ у 2-й пал. 14 ст. ў якасці палонных пасля ваенных паходаў літ. князёў на Польшчу. Аднак некампактнае іх рассяленне на землях княства, абмежаваны прававы статус і патэнцыяльная магчымасць уступлення ў шлюб з прадстаўнікамі мясц. насельніцтва прыводзілі да іх асіміляцыі. У заканадаўстве 16 ст. вельмі шмат увагі аддавалася недапушчэнню ў ВКЛ «чужаземцаў», пад якімі звычайна разумеліся палякі (менавіта, шляхта), ім забаранялася набываць землі і ўрады (пасады) у ВКЛ. Аднак гэтыя абмежаванні не датычылі іншых сац. груп польскага этнасу, напр., раменнікаў і купцоў. Пачынаючы з 15 ст. носьбіты польскіх гаворак трыма міграцыйнымі патокамі перасяляліся на Палессе. Міграцыя ахапіла і інш. рэгіёны ВКЛ. Адукаваныя перасяленцы прыносілі з сабой сваю маўленчую манеру і пісьмовую традыцыю. Пачатак функцыянавання польскага пісьма на Беларусі пакладзены пранікненнем каталіцызму і польскай культуры на тэр. ВКЛ і набыццём апошняй прэстыжнасці ў выніку заключэння дзярж. уній ВКЛ з Польшчай. Пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 у ВКЛ пачала набіраць моц *паланізацыя*, польска-каталіцкая культура атрымлівала перавагу над візантыйскай. Раннім паказчыкам польскага моўнага ўплыву была мода бел. арыстакратаў ставіць свае прозвішчы польскімі літарамі пад дакументамі на бел. мове. У пач. 17 ст. ўжо амаль уся вышэйшая знаць падпісвалася па-польску. Польская мова стала пранікаць і ў тэкст саміх дакументаў. З сярэдзіны 17 ст. акты, цалкам напісаныя на бел. мове, становяцца зусім рэдкімі. Польская культура і мова ў асяроддзі вышэйшых слаёў грамадства ВКЛ набыла прэстыжнасць. Пастановай «Ураўнаванне правоў» 1697 сойм Рэчы Паспалітай замяніў бел. мову ў дзярж. ужытку ў ВКЛ польскай мовай.



Statut
Wielkiego Księstwa
Litewskiego/
Od Naiaśnieyszego Hospodara Króla Jego Mości
ZTGMVNTA III. NA KORONACYEY
W Krakowie/ Roku 1588. wydany.

Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. Вільня, друкарня Мамонічаў. 1614. Пераклад на польскую мову.



63

Kopia Listu,
Pisanego od w Bogu Wielebnego
MELETIVSZA
SMOTRZYSKIEGO,
Rzeczonego Archiepiskopá Połockiego,
&c. Archimándryty Wileńskiego, y
Dermáńskiego;
Do Ie⁰ Mći
OYCA CYRYLLA
Pátryárchy Konstántynopolskiego.
Ktory z Láćińskiego ná ięzyk Polski przełożony,
ták się w sobie ma.
Nawielebnieyszy Oycze,
Po oddániu Pásterskiemu twemu dostoienstwu winnego pozdrowienia, y po pokornym nog Wieleb: twey pocałowániu:
OD czásu ktoregom się od Wielebności twey odiáchániem moim z Konstántynopolá oddalił / y iednego dniá / że nie rzekę godźiny / nie
J 2 miałem/

Мялецій Сматрыцкі. «Ліст да Кірыла, патрыярха канстанцінопальскага». Пераклад з лацінскай на польскую мову.

Уплыву польскай і лацінскай моў не пазбег практычна ніводны з узроўняў старабел. мовы. Вынікі гэтага ўзаемадзеяння мелі ў цэлым станоўчае значэнне для развіцця старабел. кірылічнага пісьма. Яно значна ўдасканалілася, дапоўнілася новымі дадатковымі элементамі, узятымі непасрэдна з лацінскага пісьма або распрацаванымі пад яго ўплывам, а таксама больш простымі і практычнымі прыёмамі пісання, што дазволіла ў большай меры прыстасаваць яго для перадачы гукавога ладу жывой бел. мовы. Павелічэнне колькасці лексічных паланізмаў у старабел. пісьменнасці ў канцы 16–17 ст. было абумоўлена перабудовай дзярж. кіравання і судаводства ВКЛ на польскі ўзор у выніку дзярж. уній, а таксама пранікненнем з Захаду праз польскае пасрэдніцтва каталіцызму і пратэстантызму, новых з'яў культуры. Гэтыя абставіны выклікалі ўзнікненне масы новых паняццяў, для намінацыі якіх у старабел. мове не хапала уласных сродкаў выражэння.

У сваю чаргу і польская мова ва ўмовах цеснага функцыянальнага ўзаемадзеяння, найперш папераменнага выкарыстання абедзвюх моў аднымі і тымі ж індывідуумамі падвяргалася мадыфікацыі, у выніку чаго выпрацаваўся мясц. варыянт польскай мовы, які ў навук. л-ры атрымаў назву «polszczyzna kresowa», г.зн. «ускраінная польская мова».

Значнай нацыянальнай меншасцю ў ВКЛ былі *татары*. Яны ўдзельнічалі ў вайне Гедзіміна супраць крыжакоў яшчэ ў 1319. У 1350 ардынскія атрады разам з войскам вял. князя Кейстута хадзілі ў паход супраць Польшчы. З 2-й пал. 14 ст. Гедзімінавічы ўмешваліся ў барацьбу за ўладу феад. груповак у Ардзе. Пачатак актыўнага супрацоўніцтва ардынцаў з ВКЛ звязаны з ханам Тахтамышам. Разбіты ў 1395 войскамі Цімура, Тахтамыш са сваімі людзьмі ўцёк у ВКЛ і пасяліўся ў Лідзе. Частка татараў, якія прыйшлі ў ВКЛ з Тахтамышам, відаць, засталася на службе ў вял. князя. Як лічаць даследчыкі, ядром групы служылых татараў ВКЛ сталі татарскія сем'і, прыведзеныя Вітаўтам у Літву ў 1397 і паселеныя, паводле сведчання польскіх храністаў, на р. Вака паблізу ад Трокаў. На чале іх, відаць, стаялі прыбліжаныя да Тахтамыша татарскія феадалы, якія карысталіся даверам Вітаўта. У далейшым да пач. 16 ст. татарская этнічная





Мячэць у Крушынянах. 2-я пал. 18 ст.

супольнасць ВКЛ папаўнялася пераважна за кошт уцекачоў з Арды і Крыма. З 2-й чвэрці 16 ст. працэс перасялення амаль цалкам спыніўся, нешматлікіх палонных сялілі ва ўжо існуючых татарскіх паселеннях, а ў далейшым павелічэнне колькасці татараў у ВКЛ адбывалася ў асноўным за кошт натуральнага прыросту. На думку польскага гісторыка А.Гуркі, у 16 ст. ў ВКЛ налічвалася каля 7 тыс. татараў. У пач. 17 ст., відаць, іх было 8–9 тыс. чал. Паводле падлікаў С.Крычынскага, у сярэдзіне 17 ст. татарскае насельніцтва ў ВКЛ і на Валыні дасягала 14-16 тыс. чал. Хоць гэта складала невял. працэнт ад агульнай колькасці насельніцтва княства, аднак татары змаглі пазбегнуць асіміляцыі. Відаць, моўны бар'ер, які існаваў на пачатковым этапе пражывання татараў на новым месцы, быў перашкодай для кантактаў з карэнным насельніцтвам да таго часу, пакуль татары не страцілі сваю спрадвечную моўную кампетэнцыю. Затое інтэнсіўныя кантакты падтрымліваліся з ардынскімі татарамі, што садзейнічала прытоку новых перасяленцаў. Такія кантакты ажыццяўляліся дзякуючы наяўнасці гэтай кампетэнцыі і адначасова падтрымлівалі яе. Татары служылі ў канцылярыі вял. князёў талмачамі (перакладчыкамі) і «пісарамі татарскімі», ездзілі пасламі ў Вял. Арду і Крым, выконвалі адказныя даручэнні ўрада. Рэліг. адасобленасць, захаванне татарскай супольнасцю сваёй веры сталі магчымымі таму, што ў ВКЛ былі моцныя традыцыі талерантнасці, параўнальна мірна ўжываліся розныя канфесіі. Асн. маса татараў у 16–17 ст. ужо не ведала дастаткова не толькі рытуальную арабскую мову, якой шырокія слаі татарскага насельніцтва, відаць, ніколі не валодалі нават на гіст. радзіме, але забыла і сваю спрадвечную мову паўсядзённых зносін – татарскую. У такіх умовах адзіна магчымым сродкам захавання камунікацыі паміж мусульманскімі прапаведнікамі і прыхаджанамі быў пераклад рэліг. л-ры на мясц. мовы. У сярэдзіне 16 ст. татарскую мову ведалі ўжо толькі татары апошняй хвалі міграцыі. Можна меркаваць, што і першыя бел. тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, адносяцца да сярэдзіны 16 ст. Як сведчаць даследаванні, першыя каланісты, якіх умоўна прынята называць татарамі, на самай справе належалі да розных плямён, якія часам вельмі адрозніваліся паміж сабой у моўных адносінах. Былі ўласна татары, якія належалі да кыпчацкай групы, іншыя – да ўгорскіх народаў, частка – да мангольскіх. Трэба думаць, што сярод іх пераважаў цюркскамоўны элемент. З-за недахопу жанчын-мусульманак адбываліся змешаныя ў этнічных адносінах шлюбы. Дзеці змешаных татарска-бел. сем'яў выхоўваліся ў мусульманскай веры. Перадача веравызнання менавіта па бацькоўскай лініі садзейнічала захаванню татарамі на новым месцы жыхарства сваёй культурна-рэліг. адметнасці. Зносіны ў змешаных сем'ях напачатку, паводле агульнага правіла, былі двухмоўнымі. Гэты білінгвізм, мяркуючы па выніках яго эвалюцыі, быў з'явай часовай і прадвызначыў наступны пераход да



Адзін з кітабаў – рэлігійна-этычных кніг, напісаных па-беларуску арабскім пісьмом. 17 ст.



Караімка. Малюнак Ю.І.Крашэўскага.

аднамоўнай сітуацыі – да бел. мовы ў якасці адзінага сродку зносін. Мужчынская палавіна змешанай татарска-бел. сям'і пераходзіла на мову жаночай як на мову пераважнага карэннага этнасу. Страта бел. мовай яе ранейшых пазіцый у грамадстве прывяла да паніжэння яе прэстыжу ў асяроддзі этнічных меншасцей ВКЛ. Татары пачалі пераходзіць на польскую, захоўваючы арабскую мову ў рэліг. сферы.

У 1397–98 вял. князь Вітаўт перасяліў у ВКЛ адначасова з татарамі каля 400 сем'яў *караімаў*. Перасяляліся яны сюды і самастойна ў канцы 14–пач. 15 ст. Іх гал. месцамі пасялення ў ВКЛ былі Трокі (адм. цэнтр) і Луцк; караімскія абшчыны ўзніклі і ў Галіцыі і Падоллі. Усяго ў этнічнай Літве магло быць каля 5 тыс. караімаў. У адрозненне ад татараў ВКЛ караімы да нашых дзён захавалі сваю мову, якая ўзыходзіць да кыпчацкай групы цюркскіх моў. Для караімскай мовы выкарыстоўваліся старажытнаяўрэйскі, лацінскі і славянскі (кірылічны) алфавіты. Даўняя караімская л-ра прадстаўлена рэліг. творамі – рукапіснымі перакладамі Біблії, друкаваныя ўрыўкі з якіх з'явіліся ў 16 ст. Захаваўся багаты фальклор караімаў. У сярэдневяковы караімы ўспрымаліся ўладамі і мясц. насельніцтвам ВКЛ як яўрэі. У 1495 пры выгнанні яўрэяў з ВКЛ караімы таксама падлягалі высяленню, у час войнаў і бунтаў, як і яўрэі, падвяргаліся пагромам. У працэсе зносін з літоўцамі караімы адчулі пэўны ўплыў літ. мовы і запазычылі літ. словы.

У канцы 14 ст. на бел. землях з'явіліся *яўрэі*. Больш інтэнсіўная іх міграцыя была ў 16 ст. з Зах. Еўропы, найб. з Германіі і Польшчы. Для рэліг. патрэб яўрэі перапісвалі свае святыя кнігі, у тым ліку гал. з іх – Тору. У ВКЛ ужываліся абедзве яўрэйскія мовы. Старажытнаяўрэйская была прадстаўлена тэкстамі Старога запавету. У сваіх успамінах Ф.Еўлашоўскі піша, што, акрамя ведання бел. і польскай моў, «и по жидовски написать умелом, але тое писмо их потребуе умеетности езыка эбрайского або хоть немецкого, кгдыж вжо тепер Библия жидовская немецким езыком а литэрами их выдана, чого полским езыком учинить бы се не могло для ортографии, якей в ыншых языкох немаш». Гэта сведчанне таго, што Еўлашоўскі разбіраўся ў сістэме яўрэйскіх моў. А мова, для карыстання якой дастаткова валодаць нямецкай мовай, – ідыш. Яна ўзнікла з верхненямецкай мовы. Гэта адбылося тады, калі сярэдневерхненямецкая мова эвалюцыяніравала ў новую верхненямецкую мову. Свой сучасны выгляд ідыш набыў у 1450–1550, у ранненоваверхненямецкі перыяд. У Польшчы і ВКЛ ідыш запазычыў слав. элементы. У ВКЛ яўрэі, мяркуецца, былі двухмоўнымі.



Сінагога ў мястэчку Воўпа. 17 ст.

Прыток *немцаў* у ВКЛ пачаўся ў 14 ст., калі вял. князь Гедзімін, імкнучыся ўмацаваць становішча і эканоміку дзяржавы, запрашаў іншаземцаў, абяцаючы ім свабоду веравызнання і пэўныя льготы. Па яго запрашэнні ў Беларусь і Літву з-за мяжы прыбывалі рыцары, купцы, гандляры, рамеснікі. Сяліліся яны і ў гарадах, і ў вёсках. Частка іх працавала ў маёнтках феадалаў. Вядома, што Нямецкі ордэн абвінавачваў Ягайлу ў тым, што Літва прадае палонных немцаў у халопства на Русь (відаць, ва ўсх. Беларусь). Рыжскі арцыбіскуп таксама скардзіўся на тое, што былі выпадкі продажу мясц. чэлядзі ў Літву і «рускім». Пазней васальная залежнасць Нямецкага ордэна ад Польшчы абумовіла больш шырокі прыток немцаў-каланістаў на землі Беларусі і Літвы (часцей за ўсё ў гарады). Запазычанні з нямецкай мовы ў старабеларускую адбываліся пераважна праз польскае пасрэдніцтва, найб. у 2-й пал. 16–17 ст., ужо пасля заключэння Люблінскай уніі 1569, калі паланізацыя на бел. землях адбывалася асабліва інтэнсіўна. У 1588 у Вільні пабачыў свет у перакладзе з нямецкай на польскую мову славуты антычны раман пра каханне «Эфіопіка» грэчаскага пісьменніка 3 ст. Геліядора. У пачатку кнігі змешчана прадмова перакладчыка А.Захарэўскага, напісаная ў Навагародку. Відаць, аўтар перакладу жыў у гэтым горадзе і тут ажыццявіў сваю задуму. Дакументы на ніжненямецкай мове змяшчаліся ў Метрыцы ВКЛ.



Літоўскі яўрэй. Гравюра 1626.

У асноўным праз Польшчу з сярэдзіны 15 ст. ў ВКЛ перасяляліся *цыганы*. Сваю гіст. радзіму Індыю гэта этнічная група пакінула ў 1–5 ст. і пазней распаўсюдзілася па Пярэдняй Азіі, Еўропе і часткова Амерыцы. У 1501 вял. князь Аляксандр афіцыйна дазволіў цыганам сяліцца ў ВКЛ і даў ім некат. прывілеі. Цыганская мова –

адзіная з новаіндаарыйскіх моў, пашыраная на ўсіх кантынентах. Яна ўяўляе сабой сукупнасць дыялектаў, якія ўтварыліся па-за межамі Індыі. Асобную групу цыганскіх дыялектаў складае балтыйская, якая ўключае дыялекты цыганоў Цэнтр. Польшчы, Літвы, Латвіі, Беларусі, Валыні, паўн., цэнтр. і ўсх. абласцей Расіі. Сучасны цыганскі дыялект на Беларусі – па сутнасці цыганска-бел. макаранічны жаргон, пачатак фарміравання якога, відаць, быў пакладзены адразу пасля перасялення іх на нашы землі.



Цыган. Малюнак Ю.І.Крашэўскага.

*Літ.*: Jakubowski J. Studya nad stosunkami narodowościowemi na Litwie przed Unią Lubelską. Warszawa, 1912; Stankiewič A. Biełaruskaja mowa ŭ školach Biełarusi XVI–XVII st. Wilnia, 1928; Stang Ch.S. Die westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen. Oslo, 1935; Яго ж. Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polozk. Oslo, 1939; Martel A. La langue polonaise dans les pays ruthenes, Ukraine et Russie Blanche. Lile, 1938; Топоров В.Н., Трубачев О.Н. Лингвистический анализ гидронимов Верхнего Поднепровья. М., 1962; Гумецька Л.Л. Уваги до українсько-білоруських мовних зв'язків періоду XIV–XVII ст. // Дослідження з української та російської мов. Київ, 1964; Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Ч. 1. Мн., 1967; Palionis J. Lietuvių literatūrinė kalba XVI–XVII a. Vilnius, 1967; Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Анічэнка У.В. Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мн., 1969; Польские говоры в СССР. Ч. 2. Мн., 1973; Лаучюте Ю.А. Словарь балтизмов в славянских языках. Л., 1982; Jurginis J. Tautybių santykiai Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštysteje // Тр. АН ЛитССР. Сер. А. 1982. Т. 2; Zinkevičius Z. Lietuvių kalbos istorija. T. 3.Senųjų raštų kalba. Vilnius, 1984; Яго ж. Lietuvių kalbos dialektologija. Vilnius, 1994; Яго ж. Восточная Литва в прошлом и настоящем. Вильнюс, 1996; Булыка А.М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV–XVIII стст. Мн., 1980; Русский язык в Белоруссии. Мн., 1985; Супрун А.Е. Введение в славянскую филологию. 2 изд. Мн., 1989; Свежинский В.М., Шевченко Г.И. Латинский язык в Белоруссии XIV–XVIII вв. // Interlinguistica Tartuensis. Tartu, 1990. Т. 7; Жлутка А. Лацінская літаратура як феномен беларускай культуры// Спадчына. 1993. № 2; Bednarczuk L. Stosunki etnolingwistyczne na obszarze Wielkiego Księstwa Litewskiego // Acta Baltico-Slavica. Warszawa, 1994. T. 22; Tautavičius A. Jotvingiai, dainaviai, suduviai, poleksenai ir... // Lietuvos mokslas. Vilnius, 1994. T. 2, kn. 1(2); Свяжынскі У.М. «Гістарычныя запіскі» Ф.Еўлашоўскага. Мн., 1990; Яго ж. Цюркскія і арабская мовы ў моўнай сітуацыі Вялікага Княства Літоўскага // Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі. Мн., 1996. Ч. 1; Яго ж. Аб статусе беларускай і ўкраінскай моў у часы Вялікага Княства Літоўскага // METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2003. Т. 2; Etninių žemių lietuviai dabartinėje Baltarusijoje. Vilnius, 1999; Бардах Ю. Ад палітычных да этнічных народаў у Цэнтральна-Ўсходняй Еўропе // Бардах Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002; The peoples of the Grand Duchy of Lithuania. Vilnius, 2002.

***Уладзімір Свяжынскі.***



Яўрэйская карчма ў ваколіцах Вільні. Мастак К.Кукевіч. Хрома-літаграфія. 1848.

## саслоўная структура

**Сялянства**

Жыццё сялян, самага шматлікага саслоўя ў ВКЛ, уяўляла сабой цэласны комплекс асабістых, сваяцка-суседскіх, бытавых, прыродных, эканамічных, сацыяльных, прававых, ваенна-палітычных, рэлігійных, светапоглядных фактараў.

У дакументах 14–1-й пал. 16 ст. сялян ВКЛ звычайна называлі «людзі», «смерды», «мужыкі», «падданыя», «хлопы» (апошнія 2 назвы сталі асноўнымі ў 17–18 ст.); у Жамойці ў 13–16 ст. – «лаўкінінкі», «коймінцы», «велдамы». Паводле прыналежнасці зямлі, якой карысталіся сяляне, існавалі дзяржаўныя (велікакняжацкія, гаспадарскія), баярскія (шляхецкія), царкоўныя (духоўныя) сяляне. У сярэдзіне 16 ст. амаль 50% зямлі належала дзяржаве, 45% – шляхце, 5% – царкве, нязначная колькасць зямлі, на якой жылі сяляне, належала гарадам. Асновай сял. гаспадаркі быў ворны зямельны надзел, за карыстанне якім сяляне плацілі рэнту. Да канца 15 ст. асн. формай рэнты была даніна мёдам, футрам, збожжам, мясам і інш. Сяляне, асн. формай рэнты якіх была даніна, называліся *даннікамі*, яны былі асн. катэгорыяй сялянства ў 15–пач. 16 ст. У гэты час у жыцці сялян вял. ролю адыгрывалі промыслы: паляванне, бортніцтва, рыбалоўства. Даннікамі былі і дольнікі, якія плацілі трэцюю або чацвёртую долю ўраджаю (іх было шмат на Падзвінні ў 1-й пал. 16 ст.). Даннікі выконвалі і дадатковыя павіннасці (дзякла, мезлева і інш.). З канца 15 ст. ў сувязі з развіццём панскай гаспадаркі (двароў, фальваркаў) феадалы сталі інтэнсіўна ўводзіць адработачныя павіннасці і грашовую рэнту. У рэгіёнах, дзе пераважалі даннікі (Жамойць, Падзвінне, Падняпроўе, Севершчына, Кіеўшчына, Палессе, Валынь) роля натуральнай даніны была зменшана, а плацяжы грашыма (як эквівалент натуральнага падатку) павялічыліся. На захадзе ВКЛ сталі пераважаць *чыншавыя сяляне* (асн. іх павіннасцю быў грашовы чынш) і *цяглыя сяляне* (выконвалі пераважна паншчыну). У пач. 16 ст. памер паншчыны са службы быў 1 дзень у тыдзень, у сярэдзіне 16 ст. – 2 дні. Асобную катэгорыю сялянства складалі *сяляне-слугі*, якія выконвалі павіннасці па абслугоўванні панскага маёнтка, неслі вайсковую службу ці службы, выкананне якіх патрабавала адпаведнай кваліфікацыі. Сяляне-слугі поўнасцю ці часткова вызваляліся ад інш. павіннасцей. Да сялян-слуг адносіліся: ваенныя сяляне (*панцырныя баяры, путныя баяры, паседскія баяры, служкі, выбранцы, шчытныя слугі, ардынскія слугі* і інш.; у 15–16 ст. доля ваенных сялян-слуг была вялікая сярод сялянства Жамойці, Полаччыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Севершчыны, Кіеўшчыны, Валыні); адм.-гаспадарчыя сяляне (*старцы, сотнікі, войты, падвойскія, цівуны* і інш.); дваровыя сяляне-слугі (кухары, пекары, адверныя, піўвары); прамыславікі (*асочнікі, бортнікі, баброўнікі*, конюхі, рыбаловы, *стральцы*, псяры і інш.); вясковыя рамеснікі (кавалі, цесляры, ганчары, калеснікі, кушняры і інш.). Асобную катэгорыю вясковага насельніцтва складала *чэлядзь нявольная*. Сяляне, найперш дзяржаўныя, выконвалі і дзярж. павіннасці (у 14–16 ст. – будаўніцтва і рамонт абарончых збудаванняў, дарог, мастоў, перавозка дзярж. грузаў і службовых асоб, стацыя) і плацілі падаткі на ваенныя мэты (сярэбшчына, ардыншчына, пагалоўшчына).





Літоўскія сяляне. Карціна Ф. Смуглевіча.

Паводле ступені асабістай залежнасці ад феадалаў у 15–16 ст. адрозніваліся *людзі пахожыя*, якія мелі права пераходу ад аднаго феадала да другога, *людзі непахожыя* (*айчызныя людзі, отчычы*), якія такога права не мелі, *закупы*. Закупамі станавіліся тыя сяляне, якія бралі ў доўг грошы ці маёмасць і заставаліся ў крэдытора ў якасці работніка да часу выплаты ці адпрацоўкі пазыкі. Закупніцтва было распаўсюджана да сярэдзіны 16 ст. Пачатак юрыд. афармлення прыгоннага права ў ВКЛ паклаў *прывілей 1447*, які абавязваў феадалаў не прымаць у свае маёнткі збеглых сялян. Статуты ВКЛ 1529 і 1566 развілі нормы прыгоннага права, якое канчаткова аформлена Статутам ВКЛ 1588. У 15–16 ст. адбываўся інтэнсіўны працэс запрыгоньвання пахожых сялян, ператварэння іх у отчычаў. Гэты працэс ішоў поруч з аналагічным у Цэнтр. і Усх. Еўропе і ў гістарыяграфіі атрымаў назву «другое выданне прыгонніцтва», у ходзе якога сяляне траплялі як у пазямельную, суд.-адм., так і асабістую залежнасць ад феадала. Асноўным юрыд. прынцыпам запрыгоньвання ў ВКЛ быў працяглы час пражывання селяніна ў аднаго пана. Напачатку прыкметай даўнасці было спадчыннае валоданне надзелам. Пасля прыняцця Статута ВКЛ 1529 людзі пахожыя, якія пражылі ў аднаго пана 10 і больш гадоў («засядзелі земскую даўнасць»), трацілі права на выхад і ператвараліся ў непахожых. Слой пахожых людзей устойліва існаваў і ў 17–18 ст., асабліва значным ён быў у Жамойці. Селянін быў уласнікам рухомай маёмасці і прадукцыі сваёй гаспадаркі, якімі ён мог распараджацца па сваёй волі. Статут ВКЛ 1566 абмежаваў права селяніна на вольнае распараджэнне рухомай маёмасцю яе трэцяй часткай, дзве трэці павінны былі застацца ў гаспадарцы. Нерухомая маёмасць (зямельны надзел, будынкі на ім) належалі пану (надзел лічыўся спадчынным трыманнем селяніна). У канцы 14–сярэдзіне 16 ст. сяляне свабодна куплялі і прадавалі свае надзелы, але гэта з'ява ніколі не абапіралася на закон. Распараджацца нерухомай маёмасцю сяляне маглі толькі з дазволу пана. Самастойна распараджацца зямлёй сяляне працягвалі і ў 17–18 ст., але такія аперацыі не мелі юрыд. сілы. Сяляне маглі даваць ссуды, браць крэдыты без дазволу пана, але не больш як 120 грошаў, маглі паручыцца за суму не больш як 240 грошаў. Селяніна нельга было непасрэдна прыцягваць да суд. адказнасці, а неабходна было звяртацца для «ўчынення справядлівасці» да яго пана ў вотчынны суд, які быў узаконены прывілеем 1447. Сяляне маглі выступаць сведкамі ў крымінальных і маёмасных справах, быць панятымі, прызнавалася сіла іх прысягі. З канца 16 ст. сяляне выступалі ў судах пераважна ў якасці асістэнтаў сваіх паноў – як сведкі ў справах аб межах уладанняў, наездах і інш. Сяляне цалкам знаходзіліся пад уладай вотчыннага суда, толькі ў 1768 з яго кампетэнцыі было выключана права смяротнага пакарання. Паўнапраўнымі ўдзельнікамі сяляне былі ў *копных судах*.

Адзінкай абкладання павіннасцямі ў 14–1-й пал. 16 ст. былі *дым*, *служба* (на Палессі *дварышча*). У ходзе *валочнай памеры* павіннаснай адзінкай і аб'ектам землекарыстання стала валока (21,36 га). Валочная памера змяніла агульны падзел сялянства паводле характару іх гал. павіннасцей. Асн. катэгорыямі сталі *асадныя сяляне*, цяглыя сяляне, сяляне-слугі. Сяляне сталі выконваць павіннасці адпаведна колькасці зямлі і якасці глебы. *Устава на валокі 1557* строга рэгламентавала сял. павіннасці. У дзярж. і часткова

Паляшук. Малюнак 2-й пал. 18 ст.



прыватных уладаннях чэлядзь нявольная была надзелена невял. зямельнымі ўчасткамі і ператворана ў *агароднікаў*. Замест валасной структуры на чале са старцамі ўтвораны войтаўствы як гасп.-тэр. адзінкі на чале з войтамі.

Сял. гаспадарка (дым, двор) звычайна складалася з адной сям'і ў 5–9 чал. (3–7 працаздольных). У 16–18 ст. на адну сял. гаспадарку ў сярэднім прыпадаў надзел у 0,5 валокі (10,68 га), што ў той час было дастаткова для вядзення паўнацэннай гаспадаркі. Рэальна існавалі заможныя (надзел у 1 валоку і больш) і бедныя сял. гаспадаркі (менш за 0,5 валокі). Была і праслойка маламаёмных сялян (*бабылі, кутнікі, каморнікі, парабкі*), якія не вялі разгалінаванай гаспадаркі, бо не мелі неабходных сродкаў вытворчасці і існавалі за кошт выпадковых заробкаў. У 1-й пал. 17 ст. ў выніку прыросту насельніцтва і з-за індывідуалізацыі сял. сям'і адбываўся працэс памяншэння колькасці гаспадарак з надзелам у 1 валоку і больш (на Беларусі сярод цяглых сялян іх мелі 7,5%, сярод чыншавікоў – 17%, а ў канцы 16 ст. – адпаведна 34,8% і 39,6%). Затое павялічылася колькасць гаспадарак з надзелам менш за 0,5 валокі (сярод цяглых сялян 48%, сярод чыншавікоў 42%, у той час як у канцы 16 ст. – адпаведна 13,5% і 10%). У канцы 16–пач. 17 ст. ўзнікла сістэма змешаных зямельных надзелаў (цяглы і чыншавы, вольны і чыншавы і г.д.). Яна шырока выкарыстоўвалася ў 2-й пал. 17–пач. 18 ст. ў ходзе аднаўлення гаспадаркі пасля працяглых войнаў. Найб. пашыранымі сталі камбінацыі чыншавай ці цяглай долі надзелу з прыёмнай. Сяляне карысталіся таксама агульнымі ўгоддзямі – лясамі, пашамі, выганамі, сенажацямі і інш.



Дваровы казак. Малюнак Я.П.Норбліна. 18 ст.

У 17–18 ст. сяляне акрамя асн. павіннасцей (паншчыны, чыншу) выконвалі дадатковыя: будаўніцтва дарог, мастоў, грэбляў, млыноў, панскіх фальваркаў, начная варта, гайнае, запіснае, згоны, талокі, куніца, падводная павіннасць, пастожнае і інш. З дзярж. падаткаў сяляне плацілі падымнае, а дзярж. сяляне – і гіберну. Феадалы для павышэння даходнасці сваіх маёнткаў імкнуліся павялічыць павіннасці сялян, асабліва адработачныя, пры гэтым захоўвалася адносная стабільнасць натуральнай і грашовай рэнты. У 2-й пал. 17–пач. 18 ст. для больш хуткага аднаўлення разбуранай войнамі гаспадаркі ў дзярж. і частцы магнацкіх уладанняў назіраўся перавод цяглых сялян у чыншавыя. З сярэдзіны 18 ст. адбываўся адваротны працэс пераводу чыншавых сялян у цяглыя (гл. *Тызенгаўза рэформа*), павышаўся памер паншчыны (у 2-й пал. 18 ст. – 8–16 дзён у тыдзень з валокі), шырока выкарыстоўвалася прыгонная праца ў лясных промыслах, вотчынных мануфактурах.

Становішча сялянства было нялёгкім. Сяляне цярпелі шкоды ад эпідэмій, войнаў (асабліва ад набегаў крымскіх татараў у канцы 15–16 ст., у ходзе *антыфеадальнай вайны 1648–51*, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67, Паўн. вайны 1700–21), разарала сялян і практыка здачы ў арэнду маёнткаў у 16–18 ст. Абцяжарвалі жыццё сялян сеньярыяльныя манаполіі (саляная, вінакурства) і баналітэты (млынавы).

Сяляне імкнуліся захаваць сваё становішча стабільным, што вылілася ў барацьбу за «старыну» (традыцыйнае становішча), асабліва ў 15–16 ст. і ў барацьбу за зямлю сярод гаспадарскіх сялян. Своеасаблівасцю барацьбы сялянства ВКЛ быў пераважна мірны яе характар. Звычайна намаганні сялян былі накіраваны супраць узмацнення эксплуатацыі, за захаванне традыцыйных павіннасцей. Асн. формы барацьбы: просьбы захаваць павіннаснае становішча праз яго пацвярджэнне ў граматах уладальнікаў; скаргі на павелічэнне старых і ўвядзенне новых павіннасцей, на злоўжыванні мясц. адміністрацыі маёнткаў; ухіленне пад рознымі легальнымі падставамі ад выканання поўнасцю ці часткова павіннасцей; утойванне аб'ектаў абкладання павіннасцямі; просьбы аб памяншэнні павіннасцей у сувязі са стыхійнымі бедствамі, рабаваннямі войскамі і інш. выключнымі абставінамі; пераход сялян ад аднаго пана да другога; уцёкі сялян на Украіну і інш. Часам справа даходзіла да адкрытага невыканання новых павіннасцей, а то і да ўзброенага выступлення (паўстанні ў Жамойці ў 1418 і 1536–37, у Аўкштайціі ў 1545, антыфеад. вайна 1648–51, *Крычаўскае паўстанне 1743–44, Камянецкае паўстанне 1754–56, Шаўліскае паўстанне 1769*). Пераважнай формай барацьбы сялян за асабістую волю ў 15–16 ст. былі скаргі ў суды на незаконнае прылічэнне да прыгоннага стану, у выніку якой многім сялянам удавалася захаваць ці аблегчыць сваё павіннаснае становішча, даказаць сваю свабоду. У некат. грамадска-паліт. падзеях сялянства прымала ўдзел як даволі самастойная сіла: антыфеад. вайна 1648–51, вайна Расіі з Рэччу



Паншчына. Дрэварыт 16 ст.

Паспалітай 1654–67 (партызанскія атрады Дз.Мурашкі і інш.), атрады касінераў у паўстанні Т.Касцюшкі і інш.

Асн. тыпам сял. паселішча была вёска (сяло), хоць сустракаліся і паселішчы хутарскога тыпу, асабліва на Украіне, Палессі, Усх. Беларусі. Сяляне адной вёскі складалі абшчыну (*грамаду*), а некалькі суседніх абшчын – *валасць*. У 15–18 ст. становішча абшчыны мянялася. Яна адыгрывала вял. ролю ў жыцці сялян ва ўладаннях з нязначным кантролем над сялянамі з боку феадала. У сувязі з гэтым пазіцыі абшчыны былі больш моцныя ў 14–16 ст., у дзярж. уладаннях, ва ўсх. Беларусі, на Украіне, сярод чыншавых сялян і ў перыяды аднаўлення гаспадаркі. У кампетэнцыю абшчыны ўваходзілі пытанні валодання і карыстання агульнымі ўгоддзямі, рэгулявання адносін паміж членамі абшчыны і інш. Пастутова яе функцыі мяняліся: у 14–сярэдзіне 16 ст. ў дзярж. уладаннях грамада выконвала ролю мясц. самакіравання, несла адказнасць за належнае выкананне павіннасцей, а ў сярэдзіне 16–18 ст. яна была ў большай ступені механізмам сял. узаемадапамогі. Феадалы імкнуліся падпарадкаваць сабе абшчыну і выкарыстоўваць яе для больш эфектыўнай эксплуатацыі сялян.



Паляшук. Малюнак Ю.І.Крашэўскага.

Сял. гаспадарка грунтавалася на натуральнай сістэме гаспадарання, са спалучэннем сельскай гаспадаркі і дамашніх промыслаў. Сялянства імкнулася само забяспечыць сябе як харчаваннем, так і рэчамі побыту, адзеннем, прыладамі працы і інш. Таму разам з земляробствам, жывёлагадоўляй, садаводствам, агародніцтвам сяляне займаліся рыбалоўствам, бортніцтвам, паляваннем, збіральніцтвам, цяслярствам, бондарствам, ткацтвам, ганчарствам і інш. З часам земляробства і жывёлагадоўля займалі ўсё больш дамінуючае становішча ў жыцці сялянства, а з пашырэннем феад. сервітутаў, асабліва з 16 ст., заняткі сялян паляваннем, рыбалоўствам і г.д. абмяжоўваліся.

Пры ўсёй шматаблічнасці сялянству ВКЛ розных часоў была ўласціва прыхільнасць да традыцый у гаспадаранні, побыце і, асабліва, у светаўспрыманні, светапоглядзе, свядомасці. Усе бакі жыцця сялян былі падпарадкаваны адной мэце – забяспечыць устойлівую жыццядзейнасць і ўзнаўленне сваёй сям'і. Агратэхнічныя веды сялянства назапашвала праз практычны вопыт і перадавала з пакалення ў пакаленне. У іх цесна перапляталіся веды пра свет, прыродныя з'явы з іх гадавымі цыкламі. Сяляне ведалі і добра выкарыстоўвалі даныя астраноміі (асаблівай увагай карысталіся Сонца і Месяц), метэаралогіі, батанікі, заалогіі для прадказання надвор'я на блізкі і аддалены час, для вызначэння аптымальнага тэрміну выканання пэўнай працы. Светапогляд сялянства быў надзвычай цэльным і непасрэдным, з практычнай накіраванасцю. Жыццё селяніна пастаянна рэгламентавалася нар. земляробчым календаром, які быў адаптаваны хрысціянскім царк. календаром і меў выпрацаваны вякамі комплекс традыцыйных свят, звычаяў, абрадаў. Найб. значнымі святамі ў земляробчым календары былі Каляды (перыяд зімовага сонцастаяння), Грамніцы, Саракі (дзень вясновага раўнадзенства), дні вясновага і восеньскага Юр'я, вясновага і зімовага Міколы, Вялікдзень, Купалле (дзень летняга сонцастаяння), зажынкі і інш. Жыццё сялян было запоўнена разнастайнымі прыкметамі, абрадамі, прымхамі і забабонамі, варажбой, якія выконвалі ахоўную функцыю як адзін са сродкаў гал. мэты існавання сял. сям'і: забяспечыць яе захаванне і аднаўленне. Гэтай жа мэце служылі пакланенне сілам прыроды, культ продкаў. У выпадку хваробы ці ран сяляне ў большасці займаліся самалячэннем з дапамогай фітатэрапіі. Шырока ўжываліся настоі, адвары, націранні, кампрэсы, прымочкі, інгаляцыя, крынічная і свянцоная вада, гліна, абкурванне, замовы і інш. віды знахарства. Сялянства было асн. носьбітам нар. культуры: мовы, павер'яў, легенд, казак, бытавых і абрадавых песень, танцаў і г.д.



Сялянін з касой. Малюнак Я.П.Норбліна.



*Літ.*: Леонтович Ф.И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1–3.СПб.; Варшава, 1897–98; Довнар-Запольский М. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; Baranow-

s k i J. Wieś i folwark: Studja z dziejów agrarnych polskich. Warszawa, 1914; K o ś c i a ł k o w s k i S. Ze studjów nad dziejami ekonomji królewskich na Litwie // Rocznik Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilne. Wilno, 1914. T. 5; W i e c z o r e k W. Z dziejów ustroju rolnego Wielkiego księstwa Litewskiego w XVIII w. Poznań, 1929; П о х и л е в и ч Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957; Я г о ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века. Вильнюс, 1966; П и ч е т а В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве [2 изд.] М., 1958; J u r g i n i s J. Baudžiavos isigalėjimas Lietuvoje. Vilnius, 1962; Я г о ж. Lietuvos valstiečių istorija. Vilnius, 1978; K a s p i e r c z a k S. Rozwój gospodarki folwarcznej na Litwie i Białorusi do połowy XVI wieku. Poznań, 1965; Історія селянства Української РСР. Т. 1. Київ, 1967; К о з л о в с к и й П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в.: (по материалам магнатских вотчин). Мн., 1969; Ż y t k o w i c z L. Rozwarstwienie chłopstwa a gospodarka na Żmudzi w 2 połowie XVII i w XVIII wieku // Społeczeństwo staropolskie. Warszawa, 1979. T. 2; М е л е ш к о В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. Мн., 1982; Л о й к а П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI–XVIII ст. Мн., 1991; Г о л у б е ў В.Ф. Сялянскае земле-ўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI–XVIII стст. Мн., 1992; С п и р и д о н о в М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Мн, 1993; Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1. Ад старажытнасці да 1861 г. Мн., 1997; Г у р б и к А.О. Еволюція соціально-територіальних спільнот в середньовічній Україні: (волость, дворіще, село, сябринна спілка). Київ, 1998.

***Алесь Доўнар.***

**Мяшчанства**

У склад мяшчанства ўваходзілі людзі розных сац. катэгорый – ад простых і ўбогіх да гар. *паспольства* і *патрыцыяту*, розных нацыянальнасцей і веравызнанняў. Паводле прафесійных прыкмет у складзе мяшчанства былі разнастайныя *рамеснікі* (*майстры*, *падмайстры*, вучні), якія звычайна аб'ядноўваліся ў *цэхі*, пазацэхавыя рамеснікі (*партачы*), купцы (гл. *Купецтва*), крамнікі, *прасалы*, прадстаўнікі дробных гар. урадаў (вартаўнікі, брамнікі, бубністы, агнянікі, ка́ты, магістрацкія слугі, у 18 ст. – возныя), а таксама пастухі, земляробы (асабліва ў мястэчках) і інш. У асобных гарадах (Віцебск, Полацк) да канца 16 ст. існавалі *конныя мяшчане*, якія неслі ваенную земскую павіннасць і па сац. і прававым статусе набліжаліся да шляхты.

Мяшчане мелі права на валоданне рухомай і нерухомай маёмасцю, што было зафіксавана ў актавых кнігах магістратаў і асобных дакументах (лістах, квітах, тастаментах і інш.), якія выдаваліся на рукі і захоўваліся ў асабістых архівах. У асобных выпадках мяшчане валодалі спадчынна, на правах арэнды ці заставы земскай уласнасцю, што рэгламентавалася спец. дакументамі, у т.л. каралеўскімі прывілеямі. Прававое становішча мяшчанства рэгулявалі нормы агульнадзярж. права: Статут ВКЛ 1588 (раздз. 3, арт 25, 35; раздз. 4, арт. 68, 69, 92; раздз. 11, арт. 31, 49; раздз. 12, арт. 6), соймавыя канстытуцыі і ўхвалы, а таксама ўласна гар. нарматыўна-прававыя акты: «Саксонскае люстра», *вількеры*, каралеўскія і прыватнаўласніцкія прывілеі гарадам, у т.л. магдэбургскія і набілітацыйныя, і інш. Каб пацвердзіць статус мешчаніна або стаць ім, трэба было прадставіць хросную метрыку і сведчанні (рэкамендацыі) 2 паважаных мяшчан, пасля чаго дакументы запісваліся ў спец. актавыя кнігі. Былі выпадкі залічэння ў склад мяшчанства збяднелай шляхты, а таксама атрымання шляхецтва мяшчанамі (найпершураднікамі) Вільні, Магілёва, магчыма, Віцебска, Гродні і Дзісны. Мяшчане выбіралі дэлегатаў у Трыбунал ВКЛ і задворны асэсарскі суд. Мяшчане асобных гарадоў (Вільня, Магілёў) пасылалі паслоў (*аблегатаў*) на соймікі, соймы, да вышэйшых ураднікаў і караля.



Партрэтная кафля. Заслаўскі замак. Сярэдзіна 16 ст.

Часам назва «мяшчане» ўжывалася ў адносінах да жыхароў замкавых, духоўных і прыватнаўласніцкіх *юрыдык*. Яны мусілі плаціць агульнагарадскія падаткі, але падпарадкоўваліся юрысдыкцыі замкавага і інш. судоў. У дакументах 18 ст. мяшчанамі ці абывацелямі гарадоў называлі таксама яўрэяў і татараў. Для мяшчан характэрны звароты: «убогі», «учцівы» (рамеснікі і паспалітыя), «славетны» (купцы і крамнікі), «шляхетны пан» (радцы і бурмістры), «ваша мосць пан» (войты). Пры ўпамінанні яўрэяў выкарыстоўваўся тэрмін «няверны». Істотную ролю адыгрывала тытулатура гар. урадаў – пісар, рэгент, лентвойт, паспаліты (гмінны) і інш., якая паводле традыцыі ўжывалася пажыццёва.



Мяшчане з ваколіц Вільні. Гравюра Дэмарэн-Леружа.

Актавыя і рахункавыя кнігі гарадоў 16–18 ст. сведчаць пра добрую адукацыю мяшчан, нават рамеснікаў, якія вельмі часта ўдзельнічалі ў зборы падаткаў і вырашэнні разнастайных маёмасных спраў. Пры гэтым яны звычайна карысталіся бел. мовай, якая часам запісвалася пісарамі і рэгентамі, польскаю і вельмі рэдка лацінскаю. Мяшчанства мела даволі высокі ўзровень культуры, пра што сведчаць шматлікія помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры. Інвентары, тастаменты і інш. дакументы сярод разнастайнай маёмасці не толькі гар. патрыцыяту даволі часта згадваюць мастацкія, рэліг. і прававыя друкаваныя кнігі, каралеўскія партрэты, абразы, гадзіннікі, родавыя гербавыя сыгнеты з каштоўных металаў і інш. мастацкія рэчы. Цэрквы, касцёлы і ўрадавыя ўстановы аздабляліся пры фін. дапамозе і непасрэдным удзеле мяшчан. Асобныя мяшчане, брацтвы ці магістрат выступалі як мецэнаты, фундатары і калятары. Сярод мяшчан было шмат мастакоў, рэзчыкаў (сніцэраў) і злотнікаў, якія часам аб'ядноўваліся ў цэхі. Мяшчане ладзілі тэатральныя прадстаўленні, выступленні скамарохаў, батлейкі, на рэліг. і мірскія святы спявалі царк. спевакі, гралі музыкі.

*Літ.*: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989; B o g u c k a M., S a m s o n o w i c z H. Dzieje miast i mieszczaństwa w Polsce przedrozbiorowej. Wrocław; Warszawa, 1996; Я ц к е в і ч З. Набілітацыйныя прывілеі для гарадоў ВКЛ: Магчымасці і рэалізацыя на прыкладзе Магілёва // Białostocczyzna 2002. № 1–2.

***Зміцер Яцкевіч.***

**Шляхта**

Тэрмін «шляхта» (польск. szlachta ад сярэдневерхненям. Slachta род, парода) ужываўся для абазначэння прывілеяванага саслоўя ў Беларусі, Літве, Польшчы, Украіне ў 13–пач. 20 ст., часам – у Чэхіі, а ў 2-й чвэрці–сярэдзіне 18 ст. і ў Расіі для назвы дваранскага саслоўя. У ВКЛ і Рэчы Паспалітай шляхта займала пануючае становішча, эканам. падставай гэтага была феад. ўласнасць на зямлю. Шляхта была вайсковым саслоўем, удзельнічала ў войнах, адыгрывала вял. ролю ў паліт., гасп. і культ. жыцці да канца 18 ст. Шляхта – асн. фактар у змаганні за аднаўленне дзяржаўнасці Польшчы і ВКЛ у паўстаннях 1794, 1830–31 і 1863–64.

У ВКЛ з 13 ст. асн. маса феадалаў называлася *баярамі*. Гэта нашчадкі баяр і дружыннікаў Полацкага, Тураўскага і Смаленскага княстваў, да якіх у 14 ст. далучыліся літоўскія (а ў 15 ст. і жамойцкія) нобілі і дружыннікі, частка якіх асела ў адм. цэнтрах на Беларусі. Пачынаючы з *Гарадзельскага прывілея 1413* у дзярж. актах разам з назвай «баяры» ўсё часцей ужываецца тэрмін «баяры-шляхта» або «шляхта». З 2-й чвэрці 16 ст. назва «шляхта» пастаянна займае месца ў дзярж. актах для вызначэння феад. саслоўя. У асяроддзі шляхты існавала значная маёмасная няроўнасць. У Гарадзельскім прывілеі згадваюцца «бароны, нобілі і баяры», у інш. дакументах – *«паны»*, «значныя баяры» і «баяры». Узаемаадносіны паміж рознымі групамі шляхты грунтаваліся на прынцыпах феад. іерархіі, што абумовіла эканам. залежнасць малазаможнай і незаможнай шляхты (гл. *Ваколічная шляхта, Чыншавая шляхта*) ад *магнатаў* (паноў). У 14–15 ст. з агульнай масы вылучаліся *князі, княжаты* і знатныя баяры (паны). На ніжэйшай прыступцы шляхецкага саслоўя знаходзілася дробная шляхта, якая мела невял. ўчасткі зямлі з некалькімі сялянамі або без сялян. У 15–16 ст. значнай па колькасці была група ваеннаслужылага насельніцтва, пераходная паміж феадаламі і сялянамі. У яе склад уваходзілі нашчадкі дробных бел. і літ. баяр і дружыннікаў, *сяляне-слугі* (гл. *Панцырныя баяры, Путныя баяры, Зямяне, Стральцы*). Ваеннаслужылыя людзі намагаліся ўліцца ў шэрагі феад. саслоўя, і гэта нярэдка ім удавалася. У асобных выпадках у шляхту траплялі і прадстаўнікі мяшчан і незапрыгоненых сялян – *людзей пахожых*. Шляхта фарміравалася як вайсковае саслоўе. 1-ы этап стварэння замкнутага прывілеяванага шляхецкага саслоўя завяршыўся ў 2-й чвэрці 15 ст. вылучэннем са шляхты самастойнай катэгорыі ваенных слуг. У 16 ст. працэс афармлення шляхецкага саслоўя паскорыўся. У 1522 прынята «Устава о выводе шляхетства за прымоваю», паводле якой для доказу шляхецтва



Шляхта у павятовых мундзірах. Малюнак 18 ст.

ў спрэчных выпадках патрабаваліся сведчанні 2 шляхціцаў-сваякоў або стараж. граматы, дзе продкаў называлі баярамі. Попіс войска ВКЛ 1528 (гл. *Попісы войска*) вызначыў шырокае кола асоб, прыналежных да шляхецкага саслоўя. Адасабленне ад шляхты ваенных слуг, зафіксаванае ў *Статуце Вялікага княства Літоўскага 1529*, яшчэ канчаткова не закрыла доступу прадстаўнікам інш. саслоўяў у склад шляхты. Але ўжо да сярэдзіны 16 ст. такі доступ зрабіўся магчымым у рэдкіх выпадках: у выніку спец. наданняў шляхецтва за вял. заслугі праз *набілітацыю* ваеннаслужылых людзей, у т.л. сялян і гараджан (напачатку вял. князем або гетманам на полі бою з наступным зацвярджэннем на сойме). Пасля рэформ сярэдзіны 16 ст. шляхецтва надавалася толькі соймам. Існавала і *адопцыя* – прыём у геральдычны род прадстаўнікоў інш. саслоўя з наданнем ім права карыстацца гербам або ўсынаўленне шляхціцам няшляхціца, які мог захаваць сваё прозвішча. Дапускаўся *індыгенат* – прыняцце шляхты інш. дзяржаў у грамадзянства («абывацельства») ВКЛ.

Склад шляхты Беларусі па этнічным паходжанні, паводле попісу войска 1528, у розных паветах быў неаднолькавы. Але ў цэлым сярэднія і дробныя феадалы бел. паходжання складалі 80% усіх феадалаў, 19% – літ. паходжання. На ўсходзе і ў цэнтры Беларусі шляхта была амаль цалкам бел. паходжання. У гэты час феадалы Беларусі складалі адзінае саслоўе, зыходзячы не толькі з карпаратыўных, але і дзярж. інтарэсаў. Пасля Люблінскай уніі 1569 верхнія і сярэднія пласты шляхты паступова пачалі ўжываць польскую мову. Аднак *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566* і *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* забаранялі набываць у ВКЛ зямельную ўласнасць іншаземцам, у т.л. польскай шляхце. Ёй забаранялася займаць любыя дзярж. пасады ў ВКЛ.

Каб забяспечыць падтрымку сваёй палітыкі, вял. князі ВКЛ юрыдычна замацоўвалі звычаі, што існавалі раней, і пашыралі правы феадалаў на ўзор прывілеяў шляхты ў Польшчы. *Прывілеем 1387* Ягайла гарантаваў літ. баярам, якія прынялі каталіцтва, права ўласнасці на вотчыны і вызваліў іх ад шэрагу павіннасцей. Гарадзельскі прывілей 1413 даў панам і баярам каталіцкага веравызнання права займаць пасады віленскага і троцкага ваяводаў і кашталянаў. *Прывілеем 1432* і *прывілеем 1434* праваслаўным князям і баярам гарантаваліся роўныя правы з феадаламі-каталікамі, асабістая недатыкальнасць і вызваленне ад натуральных павін-



Літвіны-шляхціцы 16 ст. Гравюра 19 ст.



Бітва з татарамі. Гравюра з «Хронікі ўсяго свету» М. Бельскага. 16 ст.

насцей і плацяжоў з маёнткаў, права распараджацца вотчынамі і карыстацца гербамі. *Прывілей 1447* даў усёй шляхце ВКЛ права судзіць сялян у сваіх маёнтках. Правы дзярж. судоў перадаваліся феадалам. *Судзебнік 1468* абараняў феад. зямельную ўласнасць. Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588 канчаткова замацавалі правы шляхты. Пасля адм.-судовай рэформы 1565–66 шляхта атрымала права на самакіраванне праз павятовыя соймікі і вальны сойм, права выбару суддзяў усіх узроўняў да Трыбунала ВКЛ уключна. Кандыдаты на суд. пасады да канца 18 ст. мусілі ведаць бел. мову, каб чытаць і разумець стараж. акты. Гэта ўмова захавалася і пасля пастановы 1697 аб увядзенні польскай мовы як афіцыйнай. Шляхта выбірала караля (пасля Люблінскай уніі). У выбарах меў права прыняць удзел кожны шляхціц, таму выбары часам праводзіліся ў чыстым полі. У Рэчы Паспалітай уся шляхта была роўнай у правах. Тытулы князёў і графаў прызнаваліся пераважна як замежныя (у Радзівілаў, Сапегаў і інш.). Нашчадкі старадаўніх княжацкіх родаў захавалі свае княжацкія тытулы. Але тытулы не давалі іх уладальнікам пераваг над астатняй шляхтай, якая юрыдычна была роўнай з магнатамі. Паводле Статута ВКЛ шляхціц не мог быць арыштаваны і пакараны без рэчавых доказаў віны, а судзіць яго маглі толькі роўныя яму, г.зн. шляхецкі суд. Права асабістай недатыкальнасці, выпрацаванае ў законах, і гарантыі ўласнасці прычыніліся да стварэння і захавання традыцыі шляхецкай годнасці ў пакаленнях шляхты. Калі трэба было вырашаць пытанні карпаратыўных інтарэсаў, права дазваляла шляхце аб'ядноўвацца ў паліт. саюзы – *канфедэрацыі*. Шляхта карысталася вял. *шляхецкімі вольнасцямі*. Яе прывілеяванае становішча шляхты падкрэслівалася забаронай «недастойных» для яе заняткаў – гандлю, рамёстваў, за што можна было страціць шляхецтва. У 1697 шляхта ВКЛ дамаглася ў барацьбе з магнатамі поўнага ўраўнавання ў правах з польскай шляхтай і кантролю над дзейнасцю вышэйшых дзярж. саноўнікаў (гл. *«Ураўнаванне правоў»* 1697). Поўнае панаванне шляхты прывяло да стварэння ў 16–18 ст. у Рэчы Паспалітай своеасаблівай шляхецкай рэспублікі.



Паланэз пад адкрытым небам. Карціна К. Шлегеля.



Шляхціц. Малюнак Я.П.Норбліна.

Адметная рыса бел. шляхты (як літ. і польскай) – яе шматлікасць. Калі ў суседніх дзяржавах – Расіі, Прусіі, Аўстрыі – у 18–19 ст. дваранства складала каля 1% насельніцтва, то на Беларусі ў канцы 18 ст. шляхты было 10–12%. Частка яе служыла ў прыватных войсках магнатаў. У Радзівілаў былі конныя атрады ардынацкай шляхты (у Нясвіжскай і Клецкай ардынацыях). Шляхта служыла ў іх пяхотных ротах, напр. большасць *выбранцаў* у слуцкім гарнізоне паходзіла са шляхты. Вял. колькасць шляхты тлумачыцца пастаяннымі войнамі і неабходнасцю мець шматлікае ваеннае саслоўе. Шляхта павінна была збірацца ў апалчэнне – *паспалітае рушэнне*, выстаўляць у войска 1 конніка (*каня*) з 5 валок зямлі (гл. *Конная шляхта*). Шляхецкія зямельныя ўчасткі з цягам часу драбіліся, шляхта ў значнай меры станавілася бяднейшай і вайсковую службу выконвала пешшу (гл. *Пешая шляхта*) або калектыўна (конніка часам ўтрымлівалі некалькі сем'яў, купляючы яму разам зброю, мундзір і вайсковы рыштунак). У 18 ст. роля апалчэння паменшала, і войска складалася пераважна з наёмных афіцэраў і жаўнераў.

*Літ.*: Л ю б а в с к и й М.К. Литовско-русский сейм. М., 1900; Л а п п о И.И. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Г р и ц к е в и ч А.П. Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы (XV–XVI) // Первый Литовский Статут 1529 г. Вильнюс, 1982; Я г о ж. Беларуская шляхта // Спадчына. 1993. № 1; Я г о ж. Шляхта Вялікага княства Літоўскага да Люблінскай уніі 1569 г. // Годнасьць. 1993. № 1; Я к о в е н к о Н.М. Українська шляхта з кінця XIV до середини XVII ст.: (Волинь і Центральна Україна). Київ, 1993; Л о й к а П.А. Шляхта беларускіх зямель у грамадска-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай другой паловы XVI–першай трэці XVII ст. Мн., 2002; P e t r a u s k a s R. Lietuvos diduomenė XIV a. pabaigoje–XV a.: Sudėtis–struktūra–valdžia. Vilnius, 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

### Духавенства

Духавенства ВКЛ складалася з прафесійных служак культу правасл., рымска-каталіцкай, грэка-каталіцкай (уніяцкай), пратэстанцкіх, іудзейскай і мусульманскай канфесій. На чале правасл. духавенства ВКЛ стаяў кіеўскі *мітрапаліт*, якому былі падначалены *архіепіскапы* і *епіскапы* – кіраўнікі епархій; усе яны павінны былі быць манахамі. Прыходы ўзначальвалі настаяцелі, якія былі белымі (жанатымі) святарамі і мелі сем'і. Белае духавенства пераважала. Падобную структуру мела і уніяцкае духавенства. Паводле падлікаў даследчыкаў, у ВКЛ у 14–16 ст. было некалькі тысяч правасл. прыходаў, а агульныя больш-менш дакладныя звесткі адносяцца да 1-й чвэрці 17 ст. Паводле рэляцыі папскага нунцыя Торэса, у Рэчы Паспалітай у 1621 было 2169 уніяцкіх і 1089 правасл. цэркваў. У 2-й пал. 17–18 ст. уніяцкія цэрквы пераважалі на Беларусі і ў ВКЛ. Паводле звестак люстрацыі падымнага за 1790, у 14 бел. паветах ВКЛ налічвалася 1199 уніяцкіх прыходаў, 143 правасл., 83 рымска-каталіцкія і 16 кальвінісцкіх, а ва ўсім ВКЛ толькі ў гарадах зафіксавана 345 рымска-каталіцкіх прыходаў, 201 уніяцкі, 56 праваслаўных. Большасць невял. правасл. цэркваў, што абслугоўваліся адной ці некалькімі духоўнымі асобамі, знаходзіліся ў сёлах і мястэчках. У апісаннях прыгранічных валасцей Полацкага пав. ў 1560-я г. зарэгістравана 41 царква, у рэвізіях сярэдзіны 16 ст. адзначана 14 цэркваў у Пінску, 10 у Навагародку, па 9 у Берасці і Полацку, 7 у Віцебску, па 6 у Гародні і Слоніме, па 5 у Магілёве, Клецку і Слуцку. У Вільні ў 1-й пал. 16 ст. было 17 правасл. цэркваў. Многія з іх заснаваны самімі святарамі «на сыром корени», некаторыя – мясц. феадаламі, мяшчанамі і сялянамі. Пасада сельскага ці местачковага святара нярэдка станавілася традыцыйна сямейнай «яко ж ест обычай в Руси», а ў гаспадарскіх маёнтках пацвярджалася велікакняжацкімі прывілеямі або лістамі мясц. адміністрацыі. Заканадаўства ВКЛ дазваляла духоўным асобам у свецкіх судах абараняць свае ўласныя і абшчынныя інтарэсы, калі яны выходзілі за межы царк. юрысдыкцыі. Жыццёвы ўзровень многіх святароў пры невял. цэрквах амаль не адрозніваўся ад становішча паспалітага люду, і яны нярэдка былі вымушаны займацца таксама с.-г. працай.

У канцы 13–сярэдзіне 16 ст. на тэр. Беларусі заснавана каля 40 правасл. манастыроў. На іх чале стаялі *ігумены* і *архімандрыты*. 17 манастыроў дзейнічалі ў Полацкім, 7 у





Арнат з выяваю фамільных гербаў. Тканіна. Канец 18 ст. Беларусь.

Новагародскім, па 5 у Аршанскім, Пінскім, па 4 і менш у Ашмянскім, Берасцейскім, Браслаўскім, Віцебскім, Гарадзенскім, Мазырскім, Менскім, Мсціслаўскім, Слонімскім паветах. Пераважалі адносна дробныя манастыры з чорным духавенствам (нярэдка да 10 манахаў). Некалькі бел. і ўкр. манастыроў, што знаходзіліся пад асаблівай апекай мітрапалітаў, епіскапаў, феадалаў, гараджан, ператварыліся ў цэнтры царк.-рэліг. жыцця, асветы, пісьменства, іканапісу, валодалі значнымі маёнткамі, пастаўлялі асн. кадры царк. іерархіі: Троіцкі ў Вільні, Кіева-Пячэрская лаўра, Дабравешчанскі ў Супраслі, Троіцкі ў Слуцку, Лешчанскі каля Пінска і інш. Уніяцкай мітраполіі ў першыя дзесяцігоддзі 17 ст. належала 15 манастыроў; пазней іх былі дзесяткі (гл. *Базыльяне*).

На чале рымска-каталіцкага духавенства ВКЛ стаяў гнезненскі *арцыбіскуп* і мітрапаліт, *прымас* Рэчы Паспалітай. Яму былі падначалены біскупы віленскі, луцкі, жамойцкі. Яны ўваходзілі ў сенат Рэчы Паспалітай. Права закладаць каталіцкія прыходы (парафіі), даваць ім нерухомую маёмасць і даходы належала вял. князю. Каля 1388 віленскі біскуп атрымаў гаспадарскі прывілей, які дазваляў яму засноўваць касцёлы ў сваёй дыяцэзіі. Паводле падлікаў Е.Ахманскага, з канца 14 да сярэдзіны 16 ст. ў Віленскай дыяцэзіі ўзнікла 259 парафій, якія абслугоўваліся значнай колькасцю белага духавенства (ксяндзамі, плябанамі, парохамі, вікарыямі і інш.), якое ў рымска-каталіцкай царкве цалкам з'яўляецца бясшлюбным, хоць і не лічыцца манаствам. Вышэйшае духавенства каталіцкай царквы фарміравалася пераважна з прывілеяваных колаў і ў сваёй большасці напачатку было польскага паходжання. Некалькі віленскіх біскупаў былі князямі, магнатамі, а Ян з князёў літоўскіх і Павел Гальшанскі знаходзіліся ў сваяцкіх адносінах з вялікакняжацкай дынастыяй. Біскупы мелі памочнікаў – *суфраганаў* і сваю курыю (канцылярыя, духоўны суд, прыватны двор) з духоўных і свецкіх асоб. Пры біскупах існавала рада – *капітул*.

У канцы 14–15 ст. на Беларусі і ў Літве ўзніклі першыя кляштары каталіцкіх манаскіх ордэнаў, непасрэдна падначаленых рымскай курыі і незалежных ад мясц. біскупаў: францысканцаў, аўгусцінцаў, бернардзінцаў. Паводле падлікаў Я.Н.Мараша, у 16–18 ст. на тэр. Беларусі былі заснаваны кляштары 18 мужчынскіх і 7 жаночых каталіцкіх ордэнаў. Пасля Люблінскай уніі на першы план вылучыўся ордэн езуітаў, які ў сваёй дзейнасці абапіраўся на шырокую сістэму місій, рэзідэнцый і калегіумаў. Значная колькасць каталіцкага духавенства атрымала падрыхтоўку ў шматлікіх езуіцкіх калегіумах, Віленскай акадэміі, духоўных семінарыях, за мяжой. Колькасць манахаў у кляштарах звычайна абмяжоўвалася некалькімі дзесяткамі асоб, якія праводзілі актыўную гасп., царк.-рэліг., місіянерскую дзейнасць, выкладалі ў школах.

У пратэстанцкіх цэрквах няма прынцыповай розніцы паміж духавенствам і свецкімі асобамі ні ў веравызнальных, ні ў прававых адносінах, таму і тэрмін «духавенства» тут мае адносна ўмоўны характар. У кальвіністкай царкве ВКЛ адсутнічала пасада найвышэйшага духоўнага іерарха. Справамі Літ. правінцыі апекавалася калегія куратараў, якая выбіралася штогод на правінцыяльных сінодах. На гэтых сінодах старшынствавалі духоўны і свецкі сіньёры (старшыні), пасля 1618 – толькі свецкі. Кальвінісцкія абшчыны ўзначальваліся суперінтэндантамі, ім дапамагалі міністры і казнадзеі (прапаведнікі).

Духавенства ў іудаізме не мела разгалінаванай структуры. Яўрэйскія абшчыны выбіралі рабінаў, якія ажыццяўлялі асн. духоўныя функцыі: вялі богаслужэнне, казалі пропаведзі, тлумачылі Біблію, выконвалі рэліг. абрады, а таксама ўзначальвалі ешыботы (школы), юрыд. ўстановы, уваходзілі ў кіраўніцтва абшчыны. Гал. рабіны ўзначальвалі абласныя абшчыны.

Мусульманскае духавенства складалася з мулаў (імамаў), якія ажыццяўлялі духоўныя і адм. функцыі ў прыходах, і іх памочнікаў – муэдзінаў. Старшым мусульманскім суддзёю з пэўнымі рэліг. функцыямі ў ВКЛ быў кады.

***Георгій Галенчанка.***

## сельская гаспадарка

Сацыяльна-эканамічнай асновай феад. грамадства была сельская гаспадарка, а адносіны, што ўзнікалі ў сферы дачыненняў да асн. сродка вытворчасці – зямлі, былі гал. фактарамі, якія вызначалі стан эканомікі ў дзяржаве. У ВКЛ асн. формы феад. землеўладання, адпаведныя катэгорыі феадалаў, асн. віды сял. землекарыстання і катэгорыі феад.-залежнага насельніцтва склаліся ў 13–14 ст. Вярхоўным уласнікам усёй зямлі ў ВКЛ лічыўся вял. князь (гаспадар). Яму належалі і т.зв. гаспадарскія землі (велікакняжацкі дамен), якія ў сярэдзіне 16 ст. складалі амаль палову тэр. краіны. Велікакняжацкі дамен фарміраваўся ў выніку далучэння да старых вотчын Гедзімінавічаў заваяваных і канфіскаваных земляў, вымарачных маёнткаў і інш. У 2-й пал. 16 ст. гэтыя землі набылі статус дзяржаўных. Адна іх частка (сталовыя *эканоміі* і *староствы*) заставаліся ў падпарадкаванні гаспадарскага скарбу, даходы з іх ішлі на карысць вял. князя і ўтрыманне двара, астатнія аддаваліся ў часовае трыманне феадалам за выкананне пэўнай дзярж. службы ці за заслугі перад дзяржавай з выплатай скарбу чацвёртай часткі даходаў – т.зв. *кварты*. Да канца 16 ст. існавала практыка раздачы гаспадарскіх земляў феадалам не толькі ў часовае трыманне, але і ва ўласнасць у якасці велікакняжацкіх падараванняў за вайсковую і інш. службу. Значную, а з 16 ст. пераважную (каля 65%) удзельную вагу ў структуры феад. землеўладання на Беларусі мела прыватнае землеўладанне – уласнасць свецкіх феадалаў (шляхты). Састаўной часткай феад.-аграрнай структуры была таксама ўласнасць царк. устаноў, якую ў асноўным складалі маёнткі каталіцкай, правасл. і уніяцкай цэркваў. Буйным землеўласнікам з'яўлялася каталіцкая царква, якой належалі такія значныя ўладанні, як Стрэшынская, Сожыцкая, Брашэвіцкая, Ігуменская, Убарцкая воласці, інш. маёнткі.

З часу ўтварэння тэр. ВКЛ у адносінах да цэнтр. улады характарызавалася падзелам на 2 часткі: цэнтр., або галоўную, куды ўваходзілі цэнтр. і зах. землі Беларусі, і землі мяжуючыя, або «прыслухоўваючыя» (з бел. земляў – гэта Падняпроўе і Падзвінне). Падзел паміж імі праходзіў прыблізна па лініі Орша–Барысаў–Менск–Слуцк–Пінск. Пераважная колькасць прыватных уладанняў знаходзілася ў цэнтр. і зах. частках Беларусі, дзе былі больш урадлівыя глебы і добра развітыя шляхі зносін. Усх. землі Беларусі, напр. *Полацкае княства* і *Віцебскае княства*, мелі своеасаблівы статус, з 15 ст. яны кіраваліся ў асноўным намеснікамі вял. князя, ваяводамі і старастамі. Тут была большая частка дзярж. уладанняў і гаспадарскіх земляў. Такое становішча ў многім паўплывала на



Ворыва, сяўба, баранаванне. Малюнкі з інвентара Бранчыцкага ключа Слуцкага княства. 1682.



далейшае эканам. развіццё гэтых рэгіёнаў, захоўваючы іх своеасаблівасць як па відах феад. землеўладання, так і па формах сял. землекарыстання. У канцы 15–1-й пал. 16 ст. адбываўся значны ўздым сельскай гаспадаркі на Беларусі. Рост попыту на збожжа на Захадзе стымуляваў вытворчасць с.-г. прадукцыі на продаж, што выклікала неабходнасць змен у арганізацыі аграрных адносін. Т.зв. *двары*, якія існавалі ў многіх дзярж. уладаннях, некат. прыватных і царк. маёнтках і гал. прызначэннем якіх была вытворчасць прадукцыі для асабістых патрэб феадалаў і ўтрымання адміністрацыі, пачалі ператвараца ў *фальваркі*, арыентаваныя на вытворчасць таварнай прадукцыі. Яны ствараліся пераважна на тэрыторыі басейнаў сплаўных рэк Нёмана і Дзвіны, пазней пашырыліся і на інш. землі Беларусі. Стварэнне фальваркаў прывяло да істотных змен у арганізацыі бел. вёскі, ва ўвядзенні новых адзінак падаткаабкладання і вымярэння зямлі, а ў павіннасным абкладанні сялянства – да пераходу ад *даніны* і *чыншу* да *паншчыны*. Аграрныя пераўтварэнні, мэтаю якіх былі больш поўны ўлік і больш рацыянальнае размеркаванне зямлі, уніфікацыя сял. павіннасцей, распачатыя ў 1530–40-я г., атрымалі назву *валочнай памеры*. У Падняпроўскіх і Падзвінскіх гаспадарскіх валасцях у якасці асн. адзінкі падаткаабкладання была *«служба»*, памерамі блізкая да *валокі*. Асн. павіннасцямі сялян тут заставаліся чынш і даніна розных відаў. На З і ў цэнтры Беларусі асн. відам сял. трымання і павіннаснага абкладання стала валока (21,36 га), а пераважнай павіннасцю – паншчына.






Сельскагаспадарчыя работы: уборка збожжа, малацьба, веянне. Малюнкі А.Даманскага ў інвентары Берасцейска-Кобрынскай эканоміі. 1742.

Адносіны сялянства да зямлі не былі аднолькавымі на працягу ўсёй феад. гісторыі Беларусі. Напачатку на Беларусі, як і ў інш. краінах, існавала ўласнасць сялян на зямлю. Пазбаўленне сялян гэтай уласнасці звязана з працэсам феад. запрыгоньвання сялянства. Права ўласнасці на зямлю ў якасці манаполіі класа феадалаў было заканадаўча замацавана Статутамі ВКЛ 1529, 1566 і 1588.

2-я пал. 17–1-я пал. 18 ст. ў гісторыі Беларусі характарызуецца значным эканам. заняпадам, выкліканым шматлікімі войнамі і звязанымі з імі стыхійнымі бедствамі. Найб. страты мелі дзярж. ўладанні, у некаторых мясцовасцях пуставала больш за палавіну ворных земляў. Выкарыстанне запушчаных надзелаў магло забяспечыць сялянам толькі існаванне сям'і і выплату рэнты феадалу. Памеры гэтых надзелаў былі невялікія, таму што недахоп рабочых рук і цяглавай жывёлы, занядбанасць глебы і даволі высокія памеры чыншу не дазвалялі сялянам пашыраць сваю гаспадарку. Каб палепшыць эканам. сітуацыю, дзяржава і прыватныя ўласнікі пачалі выкарыстоўваць самыя разнастайныя формы гаспадарання. З мэтаю зацікавіць сялян браць дадатковыя зямельныя надзелы ўводзіліся розныя льготы; валокі, што пуставалі, здаваліся сялянам на ўмовах аблегчанага чыншу, памеры якога былі меншыя, чым з асн. надзелу. Гэта спрыяла пашырэнню пазанадзельнага землекарыстання, якое называлася па-рознаму: прыёмныя землі, бакавыя, наезныя, лазовыя. Вядомы выпадкі, калі землеўласнікі нават прымушалі сялян браць дадатковыя надзелы. Але аднаўленчы працэс у розных відах феад. уладанняў ішоў па-рознаму. У буйных дзярж., прыватных і царк. маёнтках практыкавалася раздача сялянам зямлі на ўмовах грашовай рэнты-чыншу. Большасць уцалелых фальваркаў ліквідавалася з-за недахопу рабочых рук, цяглавай жывёлы для апрацоўкі вял. палёў. Былыя цяглыя сяляне пераводзіліся на чынш. Фальваркі захоўваліся толькі паблізу сплаўных шляхоў і былі арыентаваны гал. чынам на вываз збожжа за мяжу. У невял. маёнтках гаспадарка вялася пад кіраўніцтвам самога ўладальніка або трымальніка, які



Рыбакі. Гравюра 16 ст.

сам і вызначаў, па якім шляху пойдзе аднаўленне: праз развіццё фальварка ці праз ачыншванне. Агульным правілам было тое, што пасля гасп. аднаўлення землеўласнікі пачыналі наступ на сялянства – павышалі нормы павіннасцей, абмяжоўвалі правы сял. грамады, дзейнасць якой у гады заняпаду нават стымулявалі, і г.д. У цэлым паступовае аднаўленне і развіццё сял. гаспадаркі, якое было ў многім абумоўлена льготамі для сял. землекарыстання, зрабілі дабратворны ўплыў на гаспадарчы стан феад. маёнткаў, эканоміку ўсёй краіны. У сярэдзіне 18 ст. ў асобных маёнтках узровень эканам. развіцця нават перавысіў даваенны. Сярэдні памер зямельнага надзелу сялян, які значна скараціўся ў час войнаў і разбурэнняў, дасягнуў да канца аднаўленчага перыяду ўзроўню 1-й пал. 17 ст. і склаў каля паловы валокі. У буйных дзярж., прыватных і царк. уладаннях пераважалі чыншавыя сяляне, у дробных маёнтках – цяглыя. Адначасова ва ўсіх уладаннях павялічылася колькасць змешаных надзелаў з цяглай і чыншавай або прыёмнай доляй, што сведчыла аб імкненні землеўласнікаў выкарыстоўваць розныя формы павіннаснага абкладання сялян ад чыншу да паншчыны.

У 2-й пал. 18 ст. пачаўся новы перыяд у гісторыі Беларусі і Літвы – разлажэнне феадалізму і зараджэння капіталіст. адносін. Аднаўленне панскай і сял. гаспадаркі ў асноўным завяршылася да 1750-х г. Хуткі рост насельніцтва становячы адбіўся на развіцці таварна-грашовых адносін і ўнутранага рынку. С.-г. вытворчасць усё больш набывала таварны характар. Ішла спецыялізацыя асобных раёнаў, развіваліся шляхі транспартных зносін. Гаспадарчая палітыка дзяржавы была накіравана на пошук шляхоў павелічэння даходнасці дзярж. уладанняў. Імкнучыся павялічыць рэнтааддачу сялянства, скарб зноў пайшоў па шляху пашырэння фальварковай гаспадаркі. Ініцыятарам правядзення новых аграрных пераўтварэнняў стаў надворны падскарбі ВКЛ А.Тызенгаўз (гл. *Тызенгаўза рэформа*). Рэзкі паварот ад традыцыйнай палітыкі збору чыншу да аднаўлення фальваркова-паншчыннай сістэмы ў каралеўскіх эканоміях і адпаведнай рэарганізацыі сял. землеўладання і землекарыстання разам з увядзеннем новых відаў павіннасцей дазволіў скарбу павялічыць даходы ад сваіх уладанняў. У стараствах і дзяржавах, дзе гэта рэформа не была праведзена, працягвалася практыка выкарыстання тых форм гаспадарання, якія былі больш выгаднымі ў дадзенай мясцовасці, найчасцей паншчына ў спалучэнні з грашовай і натуральнай рэнтай. Падобным чынам ішло развіццё ў прыватных і царк. уладаннях. Фальваркова-паншчынная сістэма была больш пашырана на З і ў цэнтры Беларусі, на У пераважаў чынш. Але ў маёнтках дробнай і сярэдняй шляхты і некаторых царк. уладаннях пераважала менавіта фальваркова-паншчынная сістэма, што даказвае яе ўсеагульнасць для феад. уладанняў Беларусі 2-й пал. 18 ст.

Гал. галінамі сельскай гаспадаркі ў ВКЛ былі земляробства і жывёлагадоўля, якія развіваліся сінхронна і адлюстроўвалі агульны стан эканам. развіцця краіны. На працягу 13–18 ст. у земляробстве выкарыстоўваліся розныя сістэмы захавання ўрадлівасці глебы: аблога, лядна-агнявая сістэма, 2- і 3-полле. Аблога, калі ралля пасля страты ўрадлівасці глебы пакідалася без апрацоўкі для адпачынку на 3–10 гадоў, шырока выкарыстоўвалася на ранніх этапах гісторыі ВКЛ і ў 2-й пал. 17–пач. 18 ст. для апрацоўкі пустуючых земляў. Да сярэдзіны 16 ст. (пазней толькі для распрацоўкі новых палеткаў) інтэнсіўна выкарыстоўвалася лядна-агнявая сістэма, калі ўчастак лесу высякаўся і выкарчоўваўся, высахлае дрэва спальвалася і поле ўзорвалася (попел выкарыстоўваўся як угнаенне). На такіх участках атрымлівалі высокія ўраджаі на працягу 4–8 гадоў, пасля ўчастак закідваўся. Да канца 15 ст. пераважала 2-полле, калі палова ворыва адпачывала пад папарам, а другая палова ў роўных долях засявалася азімымі і яравымі культурамі. З 16 ст. стала дамінаваць 3-полле, калі трэць ворыва



Сцэны з сельскага жыцця. Малюнак А.Даманскага з інвентара Берасцейска-Кобрынскай эканоміі. 1742.



Старонка інвентара Берасцейска-Кобрынскай эканоміі з малюнкам А.Даманскага. 1742.

засявалася азімымі, трэць – яравымі, трэць заставалася пад папарам. Асн. пасяўнымі культурамі былі збожжавыя: азімае і яравое жыта (да паловы пасеваў), авёс, ячмень, пшаніца, грэчка, пэўную долю займалі гарох, лён, каноплі і інш. культуры. У структуры севазвароту панскіх і сял. гаспадарак не існавала жорсткай рэгламентацыі, гал. быў прынцып мэтазгоднасці і прыбытковасці. Нормы высеву былі даволі стабільнымі: на 1 морг (0,71 га) высявалася 0,25 віленскай бочкі азімых, 0,5 бочкі яравых. Ураджайнасць залежала ад агратэхнікі, урадлівасці глебы, угнаення і г.д. і вагалася ад сам-2 да сам-7 (найб. распаўсюджанай была ўраджайнасць сам-2,5–3). З сярэдзіны 18 ст. пачалася інтэнсіфікацыя сельскай гаспадаркі: паляпшалася апрацоўка глебы (у панскіх гаспадарках стала пашырацца шматполле з травасеяннем; у севазварот уключаліся збожжавыя, бабовыя і тэхн. культуры, ужывалася трохразовае аранне папару, шырока сталі выкарыстоўваць меліярацыю і ўгнаенне глебы – у сярэднім $1/3$–$2/3$ участка пад папарам). Сельская гаспадарка ўсё больш набывала таварную накіраванасць, вызначылася яе рэгіянальная спецыялізацыя: зах. рэгіёны ВКЛ спецыялізаваліся на вырошчванні збожжавых культур, а ўсходнія – тэхн. культур (лён, каноплі). Павысілася сярэдняя ўраджайнасць да сам-4–6; фальваркі сталі ператварацца ў шматгаліновыя гаспадаркі.

Неад'емнай часткай сельскай гаспадаркі былі агародніцтва і садаводства. Агародніцтвам займаліся ў панскіх дварах, фальварках, гаспадарках мяшчан і сялян. Асн. агароднымі культурамі былі цыбуля, агуркі, капуста, буракі, рэпа, морква, мак, часнок, пятрушка, пастарнак, хмель (на Кіеўшчыне – вінаград) і г.д. У 2-й пал. 18 ст. як агародная культура ў панскіх фальварках пашыраліся бульба, трускалкі, фасоля, кальрабі, бручка, шпінат. Садаводства было развіта слаба: у асноўным вырошчваліся яблыні, грушы, вішні, а з 2-й пал. 18 ст. ў фальварках распаўсюдзіліся чарэшня, слівы, агрэст, парэчкі. Рэдкія віды пладовых і дэкаратыўных дрэў і кустоў (апельсіны, персікі, вінаград і інш.) вырошчваліся ў магнацкіх парках і аранжарэях.



Сяляне на сенакосе. Дрэварыт з кнігі Г.Спічынскага «Пра зёлкі». 1542.

У земляробстве выкарыстоўвалі разнастайныя прылады працы. Аралі плугам, сахой. Плуг каштаваў дорага, таму асн. ворыўнай прыладай была саха, якая забяспечвала добрую якасць апрацоўкі глебы і была простай і таннай. Баранавалі глебу бараной-пляцёнкай, бараной-сукаваткай, з 2-й пал. 18 ст. ў фальварках на захадзе ВКЛ з'явіліся бароны з жалезнымі зубамі. Выкарыстоўвалі і ручныя прылады працы: матыкі, рыдлёўкі. Для ўборкі ўраджаю выкарыстоўвалі сярпы і косы. Сеялі ўручную, збожжа малацілі драўлянымі цапамі. Збожжа захоўвалі ў гумнах, клецях, спец. ямах, драўляных бочках і г.д. Зерне таўклі ў ступах, малолі ручнымі жорнамі, на вадзяных млынах, з 18 ст. шырока распаўсюдзіліся ветракі.

Важнай галіной сельскай гаспадаркі была жывёлагадоўля. У панскіх і сял. гаспадарках гадавалі буйную рагатую жывёлу, авечак, свіней і ў невял. колькасці коз. Валы выкарыстоўваліся як асн. цяглавая сіла ў сял. і панскіх гаспадарках на З і Пд ВКЛ, а на ПнУ у якасці цяглавай сілы пераважалі коні. Жывёлагадоўля грунтавалася на мясц. пародах. У 1-й пал. 17 ст. і ў 2-й пал. 18 ст. ў панскія фальваркі завозіліся высокапрадукцыйныя пароды з Зах. Еўропы (буйная рагатая жывёла галандскіх і галштынскіх парод, танкарунныя авечкі). Летам жывёлу выпасвалі на пашах (перыяд выпасу складаў каля 160 дзён), зімой выкарыстоўвалася стойлавае ўтрыманне. Асобнай галіной жывёлагадоўлі было каняводства. Яно шырока развівалася на Украіне і на З ВКЛ. У панскіх і сял. гаспадарках займаліся птушкагадоўляй, у асноўным вырошчвалі гусей, курэй, качак, індыкоў.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века. Вильнюс, 1966; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. [2 изд.]. М., 1958; Юргинис Ю.М. Изменение в аграрном строе Литвы в эпоху феодализма // Вопросы истории. 1971. № 9; Козловский П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974; Історія Української РСР. Т. 1, кн. 2. Київ, 1979; Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1. Мн., 1997.

***Валянцін Голубеў, Алесь Доўнар.***

## рамяство

У ВКЛ рамяство прайшло 3 этапы развіцця: дамашняе, на заказ і на рынак (дробная таварная вытворчасць). У 13–15 ст. атрымала развіццё дамашняе рамяство, якое было звязана з сельскай гаспадаркай. Фактычна кожны сял. двор быў самастойным вытворчым калектывам, які вырабляў разнастайныя рэчы, неабходныя для побыту і гаспадарчай дзейнасці. Гэта была пабудова жылых і гаспадарчых будынкаў, выраб адзення, тканін, посуду, рэчаў хатняга ўжытку, с.-г. прылад, транспартных сродкаў і інш. З пашырэннем ведаў, набыццём вопыту, удасканаленнем рамеснай тэхнікі складалася спецыялізацыя рамяства. Паступова з сельскага насельніцтва вылучаліся больш кваліфікаваныя майстры, спецыялісты ў пэўнай галіне рамеснай дзейнасці. Рамяства паступова станавілася адным з важных відаў (часам і асноўным) іх дзейнасці. Рамесныя навыкі і вопыт перадаваліся ў спадчыну нашчадкам. У 14–15 ст. назіралася канцэнтрацыя рамеснікаў у дзярж. (гаспадарскіх) і панскіх маёнтках, у паселішчах пры манастырах. Рамяства паступова станавілася адным (часам асноўным) з відаў службы на карысць дзярж. маёнтка ці пана. Яшчэ больш канцэнтраваліся рамеснікі ў гарадах і мястэчках. У гарадах вылучаліся людзі, які займаліся ў асноўным або выключна рамяствам. Грамадскі падзел працы прывёў да аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі. У 15–16 ст. на Беларусі ўзнікалі і пашыраліся гар. паселішчы, чаму спрыяла не толькі вялікакняжацкая ўлада, але і магнаты. Правядзенне аграрнай рэформы ў 16 ст., пераход да грашовай рэнты, развіццё рамяства спрыялі большым прыбыткам феадалаў, устанаўленню таварна-грашовых адносін паміж феадаламі, гараджанамі і сялянамі. Гэта стымулявала ўкараненне рамяства ў гарадах і мястэчках, дзе з 16 ст. павялічвалася колькасць рамеснікаў і спецыялізаваных рамесных прафесій. У 1-й пал. 17 ст. ў гарадах Беларусі налічвалася каля 200 рамесных прафесій (напр., у Берасці – 68, Гародні – 56, Клецку – 43, Магілёве – 80, Менску і Полацку – па 50). Нягледзячы на войны сярэдзіны 17–пач. 18 ст., разбурэнне і заняпад многіх гарадоў, колькасць рамесных прафесій нават павялічылася. Рамеснае насельніцтва складала да 30–50% гараджан. У мястэчках удзельная вага рамеснага насельніцтва была меншая. Найбольш пашыранымі відамі рамёстваў са значнай колькасцю рамесных прафесій былі: гарбарная і футравая вытворчасць ( у т.л. вырабы абутку «белай работы», «нямецкай белай работы», жаночага абутку); выраб адзення, тканіны, прадзенне ( у т.л. выраб адзення краўцамі «французскай работы», «нямецкай работы», «жаночай работы»); апрацоўка металу і выраб зброі ( у т.л. слесары «англійскай работы», шыхтары, якія выраблялі ніткі з золата, серабра і медзі); дрэваапрацоўка, апрацоўка мінеральнай сыравіны; будаўніцтва; выраб прадуктаў харчавання; транспартныя прафесіі (у т.л. стырнікі, або рулявыя, «малайцы на віцінах»,

Бутыль і келіх. Урэцкая мануфактура. 18 ст.





Келіх.
Налібоцкая мануфактура.
18 ст.

або матросы на рачных суднах, партовыя работнікі). Узровень майстэрства рамеснікаў бел. гарадоў быў даволі высокі, асабліва тых, хто працаваў на патрэбы магнацкага двара і войска, навакольнай шляхты. З'яўляліся рамесныя спецыяльнасці такога ж тыпу, што ў гарадах Цэнтр. і Зах. Еўропы. Звычайна рамеснікі бел. гарадоў абслугоўвалі свой раён (да 50 км), таму выразнай спецыялізацыі рамяства ўнутры дзяржавы не было. Аднак у некаторых выпадках такая спецыялізацыя назіралася. Напр., Капыль славіўся сваімі вырабамі адзення і ткацтвам. У 1750 гэтымі відамі рамяства займалася тут 192 чал. (78,7% усіх рамеснікаў горада), металаапрацоўкай займаліся толькі 7 рамеснікаў. Такая спецыялізацыя Капыля, што знаходзіўся ў Слуцкім княстве Радзівілаў, тлумачыцца геаграфічным падзелам працы ў межах адной магнацкай латыфундыі. У Слуцку пераважала гарбарная вытворчасць, апрацоўка металу і выраб зброі. У 17–18 ст. колькасць замкавых (прыдворных) рамеснікаў скарачалася. Магнацкі двор, калі была патрэба, заказваў тварную прадукцыю ў рамеснікаў як «сваіх», прыватнаўладальніцкіх, так і дзярж. гарадоў. Па традыцыі ў 15–16 ст. і пазней нязначная колькасць прадукцыі пастаўлялася ўладальніку горада як старадаўняя феад. павіннасць мяшчан-рамеснікаў у скарб уладальніка горада. Рамесная вытворчасць у гарадах развівалася ў выглядзе карпаратыўнай, цэхавай арганізацыі. Барацьба супраць уціску феадалаў і іх чыноўнікаў, нарастанне канкурэнцыі з боку прыгонных, што ўцякалі ў гарады і займаліся рамяством, вымушалі рамеснікаў стварыць *цэхі* (спачатку называліся брацтвамі) – закрытыя карпаратыўныя арганізацыі, якія аб'ядноўвалі рамеснікаў адной ці некалькіх, звычайна блізкіх, прафесій. Стварэнне рамесных цэхаў было таксама абумоўлена агульнасцю інтарэсаў дробных вытворцаў-уласнікаў, вузкасцю мясц. рынку, сумесным выкарыстаннем складскіх і гандл. памяшканняў. Цэхі ўзніклі ў дзярж. гарадах Беларусі ў сярэдзіне 16 ст., у прыватнаўладальніцкіх гарадах – у 2-й пал. 16 ст. Яны былі заснаваны на аснове *магдэбургскага права* з гар. самакіраваннем у велікакняжацкіх (дзяржаўных) гарадах. Аднак даволі хутка яны пашырыліся і на прыватнаўладальніцкія гарады яшчэ да прыняцця імі магдэбургскага права. Такім чынам, цэхавая арганізацыя была ўласціва мяшчанскаму саслоўю, як і ў еўрап. краінах. Спачатку ствараліся цэхі рамеснікаў традыцыйных гар. прафесій. Цэхі мелі свае статуты, якія дэталёва рэгламентавалі ўсё ўнутранае жыццё карпаратыўнай арганізацыі, давалі рамеснікам пэўную гарантыю свабоды дзейнасці, замацоўвалі правы і карпаратыўную адасобленасць. У невял. гарадах у адзін цэх аб'ядноўваліся рамеснікі розных спецыяльнасцей, звычайна блізкіх па дзейнасці. Цэхі займалі пэўнае месца і ў сістэме гар. самакіравання.

Рамяство развівалася і ў вёсках, дзе сяляне займаліся пераважна рознымі відамі дрэваапрацоўкі (выраб посуду, с.-г. прылад), займаліся апрацоўкай лёну і воўны, ткацтвам, пляценнем. Рамяство было асн. формай прамысловай вытворчасці. Вырабы рамеснікаў спалучалі ў сабе практычныя, эстэтычныя і сімваліка-абрадавыя функцыі. Статуты ВКЛ замацоўвалі пэўныя прывілеі для рамеснікаў у гарадах і ўстанаўлівалі юрыд.-прававыя нормы для іх дзейнасці па прычыне істотнага значэння рамяства для гасп. становішча дзяржавы. У 18 ст. пачалі стварацца і бурна развівацца мануфактуры.

*Літ.*: Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI–первой половине XVII в. Мн., 1966; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975.

***Анатоль Грыцкевіч.***



Замкі 16 ст.
Гравюра
19 ст.

# гандаль

У ВКЛ да 16 ст. існаваў пераважна знешні і транзітны гандаль дзякуючы выгаднаму геаграфічнаму становішчу Беларусі. Гандаль вялі купцы буйных гарадоў, такіх як Полацк, Віцебск, Гародня, Берасце, Магілёў, Слуцк. У 15–16 ст. з'явілася другая група гараджан, што займалася гандлем – гандляры, якія скуплялі тавары з-за мяжы ці з інш. гарадоў у купцоў, а таксама ў рамеснікаў свайго горада. Пасля правядзення аграрнай рэформы Жыгімонтам Аўгустам і ўвядзення чыншу пачаўся гандаль паміж гар. гандлярамі і сялянамі, які пашырыўся ў 17–18 ст. Гар. гандаль вёўся на плошчы, дзе знаходзіліся крамы, складскія памяшканні. У некат. гарадах існавалі «рады» крам: жалезныя, суконныя, кушнерскія і інш. Кожны «рад» крам быў асобным, меў браму, што зачынялася на замок нанач. У 1683 у Слуцку на рынку Старога горада было 130 крам і 28 складоў. Асобны рынак быў у Слуцку і ў Новым горадзе. Паступова ў 17–18 ст. гар. крамы адчыняліся і на вуліцах, блізкіх да гандл. плошчы. Паколькі зямля ў горадзе каштавала дорага, то ў выключных выпадках крамы стаялі і ў інш. месцах (у 1661 у Слуцку на мосце цераз р. Случ). У 18 ст. крамы былі ўжо не толькі ў цэнтры, але і на ўскраінах горада. У 17–18 ст. будуюцца крамы «каменныя» для лепшай засцярогі тавараў ад крадзяжоў. Нанач купцы выстаўлялі каля сваіх крам ахову.

Прадавец шкляніц. Гравюра 16 ст.



У канцы 16–17 ст. назіраецца павелічэнне колькасці крам у гарадах ВКЛ. Так, у 1595 у Магілёве было 400 крам, у Шклове ў 1643 – 301 крама, у Бабруйску ў 1639 – 75 крам, у Копысі ў 1650 – 80 крам. Пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 і Паўн. вайны 1700–21 колькасць крам спачатку знізілася, але потым паступова пачала павялічвацца. Так, у Слуцку ў 1728 налічвалася 85 вял. крам, 39 малых, 36 шапікаў. У Шклове ў 1771 было 140 крам і 12 мясных «камор», у Міры ў 1677 – 97 крам («камор») і 12 «каморак», у Ружанах у 1728 толькі на Старым рынку было 79 крам, у Давыд-Гарадку ў 1691 – 67 крам, у Клецку у 1770 – 79 крам. У невял. гарадах крам было менш. Акрамя гандлю ў крамах, у гарадах існавалі яшчэ гандлёвыя дні, у якія дазвалялася гандляваць дробным гандлярам. Захавалася кніга збору «ліцэнты» (збор падатку з гандлёвага абароту) у Слуцку за ўвесь 1698, якую вёў на ням. мове камендант горада, таму што прыбытак ішоў на патрэбы гарнізона. Паводле гэтай рукапіснай кнігі, сяляне з сёлаў і вёсак у радыусе 50–70 км ад Слуцка ездзілі ў горад для продажу сваіх прадуктаў. На гар. рынку дзейнічалі і перакупшчыкі-мяшчане. Такім чынам, гарады Беларусі былі асяродкамі мясц., лакальных рынкаў у акрузе. Дробны гандаль вялі *прасалы*, *шкоты*.

Значную ролю ў гандлі адыгрывалі кірмашы – з'езды купцоў, гандляроў і рамеснікаў у гарадах, што мелі прывілеі на магдэбургскае права. Звычайна кірмашы праходзілі 1 ці 2 разы на год і працягваліся ад 2 да 4 тыдняў, пачыналіся ад пэўных рэліг. свят.



Прыезджыя купцы мелі пэўныя абмежаванні: прадаваць тавар оптам мясц. гандлярам да пэўнага тэрміну, у прыватнаўладальніцкіх гарадах прыезджыя купцы павінны былі перш за ўсё прапаноўваць свой тавар уладальніку горада і толькі потым прадаваць на рынку і інш. Кірмашы павялічвалі гандлёвы абарот і давалі значныя прыбыткі дзярж. скарбу або мясц. уладальнікам і жыхарам (напр., абслуга прыезджых). Некат. кірмашы былі спецыялізаванымі. Так, на штогадовы кірмаш у Міры прыганялі для продажу некалькі тысяч коней.

Гандлёвая дзейнасць насельніцтва рэгулявалася пастановамі сойма вялікакняжацкімі (каралеўскімі) прывілеямі, а ў прыватнаўладальніцкіх гарадах і пастановамі ўладальніка горада і гар. магістрата.

Быў пашыраны і знешні гандаль гарадоў ВКЛ. У 16–18 ст. устанавіліся сталыя сувязі з гарадамі Польшчы, Украіны, Лівоніі, Прусіі і Расіі. Найб. багатыя купцы гандлявалі ў Сілезіі, Брандэнбургу і Турцыі. У дагаворах і пагадненнях паміж дзяржавамі ўключаліся пункты, якія гарантавалі свабодны гандаль.

Для арганізацыі гандлю і аховы сваіх інтарэсаў купцы бел. і літ. гарадоў стваралі свае карпаратыўныя арганізацыі – купецкія цэхі, якія накіроўвалі ўзброеныя караваны з таварам у інш. краіны. Для забеспячэння куплі-продажу тавараў у купецкіх цэхах ствараліся касы («скрынкі»). Пры гэтым узнікала сістэма крэдыту, працэнтаў, даўгавых распісак і інш. Купецкія цэхі мелі статуты, у якіх дэталёва распісваліся ўмовы замежнага і ўнутрыгарадскога гандлю. Асобныя прадстаўнікі купецтва былі звязаны з магістратамі сваіх гарадоў і буйнымі магнатамі, выконвалі іх гандл. даручэнні і былі іх банкірамі. Так, у 1603 пастаўшчыкамі тавараў Я.Радзівілу былі браты М. і А.Тышэвічы (першы з іх займаў пасаду слуцкага войта), якія куплялі князю сярэбраныя рэчы ў Вільні. Акрамя таго, А.Тышэвіч пастаўляў магнату сабалінае футра са сваёй крамы і інш. рэчы на значныя сумы. Так, у 1602 ён прадаў у крэдыт жонцы Радзівіла Соф'і Алелькавіч тавараў на 579 коп 27 грошаў (акрамя гэтага яшчэ і пазычыў ёй 400 коп грошаў).

Значна ажывіўся гандаль у 2-й пал. 18 ст. Гэтаму спрыяла адкрыццё мануфактур у розных гарадах і маёнтках магнатаў Беларусі і Літвы, а таксама каралеўскіх эканоміях. Найбольшыя ў той час былі кірмашы ў Менску, Шклове, Бешанковічах і Зэльве. Крамы адчыняліся пры мануфактурах.

Змены адбыліся і ў знешнім гандлі. Па-ранейшаму прадметамі вывазу за мяжу былі скураныя тавары, воск, мёд, шчацінне. Бел. купцы пачалі ўсё больш вывозіць на экспарт с.-г. і прамысловыя тавары – лён, пяньку, льняное і канаплянае семя, збожжа, лясныя матэрыялы, паташ, смалу, дзёгаць і інш. Асн. пунктамі дастаўкі тавараў былі балтыйскія парты – Рыга, Гданьск, Каралявец (Кёнігсберг), потым іх перапраўлялі далей у Еўропу. Развіццё знешняга гандлю Беларусі і Літвы ў 18 ст. было звязана з усё большым попытам зах.-еўрап. краін на гэтыя тавары. Па-ранейшаму падтрымліваліся гандлёвыя сувязі з гарадамі Польшчы, Украіны і Расіі. Гэтаму спрыялі мытныя статуты як у ВКЛ, так і ў суседніх краінах.

Унутранаму і знешняму гандлю ў Рэчы Паспалітай садзейнічалі рэформы эканам. характару (увядзенне адзіных мераў вагі, даўжыні і інш.) у 1760–80-х г., а таксама паліт. рэформы Чатырохгадовага сойма 1788–92. Пашыралася эканам. прастора гандлёвай дзейнасці бел. і літ. гараджан і шляхты.

*Літ.*: W a w r z y ń c z y k A. Studia z dziejów handlu Polski z Wielkim Księstwem Litewskim i Rosją w XVI wieku. Warszawa, 1956; A l e x a n d r o w i c z S. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki. Białystok, 1961. T. 1; Г р и ц к е в и ч А.П. Местный рынок сельскохозяйственных продуктов в Слуцком княжестве в Белоруссии в конце XVII–начале XVIII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1961 г. Рига, 1963; Я г о ж. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975; К о п ы с с к и й З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI–первой половине XVII в. Мн., 1966; Ł o w m i a ń s k i H. Handel Mohylewa w XVI wieku // Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983; М е л е ш к о В.И. Могилев в XVI–середине XVII вв. Мн., 1988; Л е в к о О.Н. Торговые связи Витебска в X–XVIII вв. Мн., 1989; К а п ы с к і З., К а п ы с к і Б. Беларускі селянін на гарадскім торгу ў канцы XVI–першай палове XVII стст. // Бел. гіст. часопіс. 1994. № 3; В а р о н і н В. Унутраны гандаль у Полацкім ваяводстве першай паловы XVI с. // Веснік БДУ. Сер. 3. 1999. № 1.

*Анатоль Грыцкевіч.*

# транспарт і шляхі зносін

Важнымі транспартнымі шляхамі ў ВКЛ былі рэкі (Нёман, Вілія, Зах. Буг, Зах. Дзвіна, Дняпро, Прыпяць і іх буйныя прытокі), якія забяспечвалі даволі надзейную і танную дастаўку тавараў. У летні перыяд яны выкарыстоўваліся як водныя шляхі, а зімой – як лядовыя. Для рацыянальнага і бяспечнага выкарыстання рэк як транспартных шляхоў з 16 ст. практыкавалася іх ачыстка, напр., Нёмана і Віліі. З 2-й пал. 18 ст. пачалі будавацца *Каралеўскі канал* і *Агінскі канал*, якія звязалі рачныя сістэмы Чорнага і Балтыйскага мораў. Для руху па рэках выкарыстоўвалі разнастайныя па танажы, канструкцыі і прызначэнні рачныя судны: камягі, віціны, разнастайныя лодкі, чаўны і проста плыты. Назіраліся рэгіянальныя асаблівасці ўжывання розных відаў суднаў: у басейне Нёмана пераважалі віціны і боты; Дзвіны – стругі, шкуты і якіманкі; Дняпра – баркі і байдакі; па каналах і невял. рэках плавалі баркі і паўбаркі. Для руху выкарыстоўваліся шасты, вёслы, ветразі. Сярэдняя хуткасць руху суднаў па цячэнні была 4–6 км/гадз, а супраць цячэння – 1,5–2 км/гадз. Найб. значныя прыстані знаходзіліся ў Вільні, Берасці, Пінску, Віцебску, Полацку, Усцілугу, з 17 ст. – у Стаўбцах, Свержані, Бешанковічах і інш.

Сухапутныя дарогі былі грунтавыя і адлюстроўвалі асаблівасці рэльефу. Яны імкнуліся не перасякаць значных перашкод, рабілі рэзкія павароты, часта змянялі свой напрамак, на забалочаных месцах рабіліся насыпы і гаці. Бум будаўніцтва дарожна-трансп. камунікацый на тэр. ВКЛ прыпаў на пач. 15 ст., калі былі пракладзены дарогі, якія звязвалі ўсе вобласці дзяржавы з яго цэнтрам. Пры будаўніцтве дарог таго часу ўмела выкарыстоўваўся рэльеф мясцовасці. У сярэдзіне 16–1-й пал. 17 ст. і з сярэдзіны 18 ст. ажыццяўлялася пашырэнне існуючай сеткі дарог, яе добраўпарадкаванне. Дарогі падзяляліся па сваёй значнасці. Найб. значныя ў дзяржаўным, гандлёвым плане дарогі называліся гасцінцамі і былі шырокія і добра абсталяваныя. Статут ВКЛ 1588 агаворвае (раздзел 9, арт. 32), што гасцінцы «мають быци водле стародавного обычаю так широкие, абы на полтора прута [7,3 м] быти могли», тут жа выкладзены правілы праезду па дарогах: «воз порожний маеть уступовати возу наложоному, пеший – езному, езный – возу». Дарогі мелі сістэму дрэнажу, іх акопвалі з абодвух бакоў равамі, абапал высаджвалі дрэвы. У гарадах практыкавалася пабудова дарог з цвёрдым пакрыццём (спачатку дашчаным, потым брукаваным). Дарогі часта абносіліся агароджай. У 13–17 ст. дарогі не мелі паказальнікаў напрамкаў руху, таму вял. значэнне мелі асабістае веданне шляху



Падарожжа па Усходняй Еўропе. Дрэварыт з кнігі С.Герберштэйна «Запіскі аб маскоўскіх справах». Базель. 1556.



Сані Марыны Мнішак. Пач. 17 ст.

і роля праваднікоў. У 18 ст. на перакрыжаваннях сталі ставіць паказальнікі напрамкаў з назвай важнейшага населенага пункта па напрамку руху. Важнейшымі сухапутнымі дарогамі былі: «вял. дарога» Смаленск–Орша–Талачын–Бобр–Барысаў–Менск–Койданава–Мір–Слонім–Ваўкавыск–Берасце; «гасцінец вялікі» Полацк–Віцебск–Орша–Копысь–Шклоў–Магілёў; Луцк–Пінск–Навагародак–-Вільня; Вільня–Трокі–Коўна–Юрбарк; Вільня–Гародня–Ломжа; Вільня–Глыбокае–Полацк–Невель–Масква; Менск–Маладзечна–Вільня, Навагародак–Шчучын–Гародня–Аўгустаў; Кіеў–Гомель–Рэчыца–Бабруйск–Менск; Кіеў–Мазыр–Пінск–Кобрын–Берасце; Слуцк–Глуск–Гомель; Брацлаў–Вінніца–Корац–Дубровіца–Пінск; Берасце–Ратна–Уладзімір–Луцк і інш.

Асн. цяжкасць пры буд-ве дарожна-трансп. камунікацый складала абсталяванне рачных пераправаў. Для пераадолення рэк выкарыстоўваліся броды, масты, а на вял. рэках – паромныя пераправы (перавозы). Некат. масты былі даволі вял. памераў (цераз Друць каля Бялыніч, 16 ст., цераз Бярэзіну і Гайну, 18 ст. і інш.). Акрамя пастаянных усталёўваліся часовыя пераправы пантоннага тыпу (пантонны мост быў узведзены ў час бітвы пад Оршай у 1514 цераз р. Крапіўну). Асн. матэрыялам для пабудовы мастоў было дрэва з-за даступнасці і адноснай таннасці матэрыялу. Будавалі масты і з каменнымі апорамі (напр., у Маркаўскай воласці ў 15 ст., у Гародні і Вільні ў 16–18 ст.). Масты мелі як апорную, так і арачную канструкцыю.

Для ўтрымання ў належным стане дарожна-інжынерных камунікацый у межах дзяржавы існавала спец. кола людзей (мастаўнічыя), што назіралі за станам дарог і мастоў. Непасрэдна за стан дарожных камунікацый адказваў уласнік ці трымальнік уладання і яго адміністрацыя, на землях якога знаходзіліся дарогі. Самі работы па ўпарадкаванні дарог (будоўля і рамонт мастоў, насыпанне грэбляў і г.д.) клаліся на падданых уладання. У дзярж. уладаннях існавала асобая катэгорыя насельніцтва, якая спецыялізавалася на будоўлі і рамонце мастоў – *борці*. Для забеспячэння добрага тэхнічнага стану і абслугоўвання мастоў і дарог шырока практыкаваўся збор маставога мыта. Гэта сістэма дазваляла атрымліваць грашовыя сродкі на ўтрыманне дарог і мастоў у залежнасці ад інтэнсіўнасці іх выкарыстання.

Звычайным відам транспарту быў конны. Гужавы транспарт існаваў 2 відаў: калёсны (летні) і палазны (зімовы). Выкарыстоўваліся павозкі, падводы, фуры, карэты, у зімовы перыяд – сані. Хуткасць руху залежала ад якасці дарогі: у 18 ст. для абозаў яна была 20–30 км за суткі, для асобных экіпажаў – 40–50 км, для верхавых – да 70–80 км за суткі. Напр., па даных 1668, дарога з Варшавы да Магілёва займала каля 13 дзён.

У цэлым дзярж. сістэма ВКЛ па стварэнні і захаванні інжынерна-дарожных камунікацый у належным стане выконвала сваю функцыю і забяспечвала добры стан транспартных шляхоў.

Літ.: Сапунов А.П. Река Западная Двина. Витебск, 1883; Wysłouch S. Posługi komunikacyjne w miastach W. Ks. Litewskiego na prawie magdeburskiem do połowy XVI w. Wilno, 1936; Wawrzyńczyk A. Studia z dziejów handlu Polski z Wielkim Księstwem Litewskim i Rosją w XVI wieku. Warszawa, 1956; Жучкевич В.А. Дороги и водные пути Белоруссии. Мн., 1977; Сардаров А.С. История и архитектура дорог Белоруссии. Мн., 1978; Кривонос В.П. Шляхи торгівлі українських земель з Балканами в середині XVI–першій половині XVII ст. // Проблемі слав'янознавства і історії зарубіжних слов'ян. Львів, 1979. Вип. 20; Таўлай Д.А. Старажытныя дарогі беларускага Палесся // Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту. Мн., 2001; Астаповіч А.У. Эвалюцыя і асаблівасці канструкцыі традыцыйных рачных суднаў на Беларусі ў канцы XIX–пачатку XX ст. // Там жа.

***Алесь Доўнар.***



Тарадайка. Малюнак Д. Хадавецкага. 1773.

## матэрыяльныя ўмовы жыцця

**Харчаванне**

Са старaж. часоў асн. прадуктам харчавання беларусаў і літоўцаў быў хлеб з жытняй мукі, часта з дабаўкамі ячменнай, пшанічнай, грэцкай, аўсянай. Адносна пашыранай была выпечка з грэцкай мукі – таўчонікі, шалтаносы і г.д. Мучныя вырабы з пытляванай пшанічнай мукі (пірагі, бліны, караваі) выпякаліся ў асн. на святы.

Ва ўмовах дэфіцыту мясной ежы важнай крыніцай бялку былі бабовыя – боб, гарох, сачавіца, з 18 ст. фасоля («нямецкі гарох»). Улюбёнай стравай многія стагоддзі быў вараны гарох са смажанымі скваркамі, гарохавы і аўсяны кісель. Самай папулярнай гароднінай была капуста, якую назапашвалі на зіму (салёную, квашаную), а таксама караняплоды (рэпа, буракі, морква, бручка, пастарнак), агуркі. Бульба з'явілася ў 1-й трэці 18 ст., але пашырэнне атрымала ў апошнія гады існавання ВКЛ. Істотнай рысай кулінарыі ўсіх народаў Рэчы Паспалітай было спажыванне вял. колькасці часнаку і цыбулі. Грыбы (салёныя, сушаныя, у парашку) ужываліся як неабходны араматычна-смакавы дадатак да супоў, соусаў, мясных і рыбных страў, сезонна як самастойная страва.

Да 16 ст. меню шляхты, мяшчанства і сялянства не паспелі істотна разысціся. Заможныя пласты грамадства ў асн. спажывалі тыя самыя прадукты харчавання, што і нізы, толькі лепшай якасці і больш рэгулярна; імпартаваныя прадукты (віно, цукар, спецы) спажываліся эпізадычна. У далейшым *сарматызм* спрыяў захаванню ў меню нават магнатаў значнай колькасці вельмі простых страў, што забяспечвала пэўную агульнасць кулінарных традыцый розных сац. пластоў.

З канца 16 ст. ў Рэчы Паспалітай, у т.л. і ВКЛ, гал. крыніцай нац. даходу стаў экспарт збожжа праз балтыйскія парты. Узмацненне сац. дыферэнцыяцыі ў 16 ст. зменшыла магчымасці збіральніцтва, палявання і рыбалоўства для непрывілеяваных саслоўяў. У выніку штодзённае меню пераважнай большасці насельніцтва, сялян звялося пераважна да раслiннай ежы, у першую чаргу да хлеба і інш. мучных страў, а таксама кашаў.

Кухня шляхты і гар. патрыцыяту ВКЛ з 16 ст., асабліва пасля Люблінскай уніі 1569, трапіла пад уплывы польскай кухні, якая ў сваю чаргу шмат запазычыла з італьянскай (асабліва зеляніну, салаты), ням., венг., пазней франц. кулінарыі. У выніку да 17 ст. сфарміравалася т.зв. «старапольская кухня»; асн. комплекс яе страў, прыёмаў прыгатавання і рытуалаў спажывання быў адзіным на ўсёй культ. прасторы Рэчы Паспалітай, але ў ВКЛ меў таксама свае асаблівасці, якія карэніліся ў больш архаічным гасп. ладзе ўсх. славян і літоўцаў, большай даступнасці дзічыны і прадуктаў збіральніцтва, рэгіянальным патрыятызме, часткова ва ўплывах суседняй Маскоўскай дзяржавы, правасл. царквы, літ.-бел. татараў, караімаў і г.д. Асобным каналам рэцэпцыі кулінарных інавацый была яўр. кухня. Гал. рысамі «старапольскай кухні» былі: празмерная тлустасць страў; надзвычай востры і кіслы смак (праз выкарыстанне вял. колькасці спецый, воцату і г.д.), часта ў спалучэнні з салодкім; імкненне не так да вытанчанага смаку, як да вял.



Шкляная кварта з Гародні. 16 ст.





А. Арлоўскі. Сармацкае баляванне ў Радзівілаў.

колькасці ежы, якая мусіла сведчыць пра сац. статус гаспадара. Нават ніжэйшыя пласты грамадства намагаліся імітаваць гэтыя рысы, асабліва ў час найбольшых царк. і сямейных свят.

Афіц. царкоўны каляндар са складанай сістэмай пастоў (у каталіцкім календары поснымі былі да 192 дзён у годзе, з іх 51 дзень складалі шчырыя пасты), а таксама архаічная паганская абраднасць накладалі істотныя абмежаванні на структуру харчавання ў канкрэтныя перыяды года і дні тыдня. Правасл. пасты былі яшчэ больш шчырымі і прадугледжвалі адмову не толькі ад мясных, але і ад малочных прадуктаў і яек, а ў вялікі пост – і ад рыбы. Рацыён істотна вагаўся у залежнасці ад сезона: найб. сытным перыядам у годзе быў прамежак паміж Калядамі і Масленіцай (мясаед), калі спажывалася найб. колькасць мясных прадуктаў. Такі рытм у пэўным сэнсе дапамагаў прыстасавацца да дэфіцыту асн. прадуктаў харчавання. Вясной запасаў ежы бракавала, у меню дабаўлялі шчаўе, крапіву, лебяду, карэнне заячай капусты, бацвінне, маладыя парасткі хвоі, «мязгу» – яшчэ не зацвярдзелую абалонку асіны і бярозы. Голад быў звычайнай з'явай у жыцці прыгоннай вёскі, а ў часы неўраджаяў, войнаў, эпідэмій – таксама ў гарадах.

Фрукты і ягады спажываліся амаль выключна мясцовыя (яблыкі, грушы, слівы, вішні, парэчкі), з 17 ст. на сталах магнатаў, пазней – сярэдняй і дробнай шляхты, мяшчан з'явіліся цытрусавыя. З пач. 18 ст. іх вырошчваюць у мясц. аранжарэях, вырабляюць ліманады, аранжады.

Малочных прадуктаў спажывалася значна меней, чым сёння (менш за 100 л на чалавека за год у пераліку на цэльнае малако). Мясц. «чырвоная» парода буйной рагатай жывёлы не вызначалася высокімі надоямі, а значную частку статка складалі валы. Асн. сродкам кансервацыі і гал. формай спажывання малака быў тварожны сыр, які елі пераважна ў святы. Сыр высушваўся да крамянасці, яго крышылі нажом і смакталі як цукеркі. Больш распаўсюджаным, чым сёння, быў сыр з казінага малака. Ферментаваны (сычужны) сыр быў да 18 ст. экзатычным артыкулам імпарту (з Прусіі, Галандыі, Францыі, Італіі), мала вядомым нават прывілеяваным саслоўям. Яго мясц. вытворчасць пачалася толькі ў 19 ст. Яшчэ менш, чым сыру, спажывалася смятаны і масла, якімі, як і цэльным малаком, забельвалі супы, кашы і інш. стравы. Больш спажывалася раслiннага тлушчу ў форме алею (ільнянога і канаплянага, у вышэйшых класаў часам і аліўкавага). Алеем штодзённа запраўлялі кашы, прыпраўлялі селядцоў. Канаплянае насенне таксама пражылі (у познія часы з бульбай).

Сярод мясных прадуктаў асн. месца займалі вырабы са свініны, значна меней (але

больш, як сёння) спажывалася бараніна, яшчэ менш – ялавічына. Свіней забівалі пераважна ў ліст.–студзені, а таксама вясной; найб. часта перад Калядамі (старажытны, яшчэ з паганскіх часоў, звычай). З мяснога фаршу выраблялі каўбасы; з пячонкі, крыві з дадаткам мукі, круп – кішку (літ. vėdarai), свіныя страўнікі таксама начынялі фаршамі (т.зв. skilandis або шкалондза, ці каўбух); выраблялі студні, сальцісоны, рулеты, вэндзілі шынкі (свіныя лапаткі са скурай), кумпякі (сцёгны і лапаткі, з якіх здымалі скуру, каб засаліць разам з салам), рэбры, галёнкі (верхнія часткі ног, аддзеленыя ад шынак і кумпякоў), свіныя вушы. Салілі сала, ператаплівалі здор. Вэнджанне было больш пашырана ў этнічнай Літве, асабліва ў Жамойці, для Беларусі больш характэрна засолка і вяленне мяса.

Са свойскай птушкі найб. звыклымі былі куры, качкі, гусі; у 16 ст. з'явіліся індыкі. Асн. мэтай гадоўлі птушкі было атрыманне яек. У сял. рацыёне птушынае мяса было рэдкасцю, яго спажывалі пераважна як дыетычную ежу пры хваробах, часцей прадавалі на рынку ці выплачвалі ў якасці натуральнай даніны. Традыцыйным далікатэсам былі вэнджаныя «паўгускі», вяленыя качкі. Гусей было прынята забіваць у пач. лістапада (асабліва на св. Марціна – 11 ліст., згодна з агульнаеўрап. звычаем); вытаплівалі гусіны шмалец, які лічыўся найб. далікатэсным тлушчам. Печаная ці смажаная гусь з грыбамі ці фаршыраваная кашай – традыц. бел. і літ. страва, вядомая з многіх літаратурных крыніц.

Соль, неабходная для кансервацыі мясных і рыбных прадуктаў, у ВКЛ не вывараваласяя: у паўн. і цэнтр. вобласці дзяржавы яна прывозілася з Балтыкі па Нёмане і Дзвіне, з Польшчы; на поўдзень – з Крыма т.зв. «чумакамі». Разам з соллю прывозілі селядцоў (галандскіх, нарвежскіх, шатландскіх), якія з'яўляліся адным з гал. артыкулаў імпарту. Як самастойны прадукт увозіўся таксама лёк (селядзечны расол). Селядцы былі амаль адзінай марской рыбай, даступнай, хаця б на святы, усім пластам грамадства. Заможныя жыхары ВКЛ часам спажывалі і траску. Ікра («кавіёр»), вустрыцы і інш. распаўсюдзіліся пад франц. уплывам у 18 ст. толькі сярод магнатаў. Адносна даступнай была рачная рыба (ліні, асятры, шчупакі, ментузы, ляшчы, акуні і г.д.), з якой варылі юшку, рыбныя клёцкі (галкі), а таксама вэндзілі, салілі.



У літоўскай карчме ў святочны дзень. Гравюра 19 ст.

Істотнай рысай магнацкай і шляхецкай кухні 17–18 ст. было ўжыванне вял. колькасці разнастайных спецый – перцу, шафрану, маярану, базіліку, карыцы, кардамону, анісу, міндалю. Частка спецый і прыпраў мясц. паходжання была даступнай і адносна шырокім пластам грамадства – кмен, каляндра, бабкі (лаўровы ліст), гарчыца, ядловец, вішнёвае і дубовае лісце і г.д.

З салодкіх прадуктаў з глыбокай старажытнасці быў шырока вядомы мёд. Трысняговы цукар пачалі імпартаваць у 16 ст. з Зах. Еўропы («канар») і Асманскай імперыі («кандыс»). Ён быў значна даражэйшы за мёд і недаступны абсалютнай большасці. Сяляне ў якасці дэсерту ўжывалі саладуху, кулагу – стравы з соладу, мукі, ягад, часам з дабаўленнем мёду.

Самымі страраж. алкагольнымі напіткамі і славян, і балтаў былі піва і мёд. Піва выраблялася толькі верхняй ферментацыі, звычайна малога мацунку (2–3 аб'ёмныя %), але спажывалася ў вял. колькасці, замяняючы шляхце і мяшчанам прахаладжальныя напіткі (што тлумачылася і недаверам да пітной вады, якая ва ўмовах нізкай гігіены часта служыла крыніцай захворванняў). Піва было нетрывалае, але яго варылі (асабліва ў фальварках) даволі часта, таму натуральным лічылася мець вял. запасы соладу. У параўнанні з сучаснасцю значна больш распаўсюджаным было піва цалкам ці часткова з пшанічнага соладу («белае»). Піўныя поліўкі (з жаўткамі, тварагом, смятанай) да 19 ст. замянялі сярэдняму класу каву і гарбату. Пітны мёд у залежнасці ад прапорцыі мёду і вады і ступені перагонкі (паўтарак, двайняк, трайняк) меў мацунак ад 12 % да 50 %;



асабліва цаніўся мёд, які сыцілі ў Коўне. У адрозненне ад Рас. дзяржавы вытворчасць і спажыванне алкагольных напіткаў былі істотна дэцэнтралізаваныя. Хаця сяляне мусілі набываць іх толькі ў *корчмах*, што належалі іх панам (гл. *Прапінацыя*), яны маглі вырабляць пэўную колькасць самастойна на гал. царк. святы або на вяселле; магдэбургскія гарады мелі прывілеі ад вял. князёў на выключнае права вытворчасці і продаж напіткаў у корчмах, што належалі магістратам; існавалі таксама адмысловыя мядовыя брацтвы, сябры якіх мелі права самастойна вырабляць пэўную колькасць напіткаў напярэдадні вял. свят.

Віно ўжывалася ў літургічнай практыцы правасл. і каталіцкай царквы, а таксама было артыкулам раскошы. Яно імпартавалася з Малдовы (царкоўныя кагоры), з Грэцыі (мальвазія), з 16 ст. найб. папулярнасць сярод шляхты набыло венг. віно (асабліва такай). У 17–18 ст. пашырылася мода на рэйнскія (у Рэчы Паспалітай іх пілі з цукрам) і франц. віны.

Гарэлка («вино горелое») з'явілася ў ВКЛ у канцы 15 ст. і па меры змяншэння выдаткаў на яе вытворчасць паступова выцясняла піва і асабліва мёд, з канца 17–пач. 18 ст. заняла месца асн. алкагольнага напітку. У залежнасці ад ступені дыстыляцыі яе мацунак вагаўся ад 15–20 % (т.зв. простая) да 70 % (акавіта). Папулярнымі напіткамі шляхты былі розныя лікёры, настойкі і наліўкі на аснове гарэлкі, з дабаўленнем зёлак, мёду, спецый, ягад, цукру – зуброўка, крупнік, крамбамбуля, траянка і г.д. Такія напіткі, а таксама цукар, кава, гарбата, спецыі і інш. звычайна захоўваліся ў т.зв. «прыемнай аптэчцы» – адмысловай шафе, ключы ад якой мела толькі гаспадыня заможнага дому.




Тытульны ліст кнігі «Водка, або Гарэлка». 1614.

З неалкагольных напіткаў для ВКЛ былі характэрны бярозавы і кляновы сокі, якія нарыхтоўвалі ў сакавіку, спажывалі не толькі ў свежым, але і ў зброджаным выглядзе: злівалі ў кадку, дадавалі дрожджы, некалькі галінак парэчак для паляпшэння смаку і насыпалі авёс, які, прарастаючы на паверхні, ахоўваў сок ад пылу. Такі напітак мог захоўвацца да сенакосу; у Польшчы «бярозавая юшка» служыла аб'ектам сталых кпінаў над літоўцамі і беларусамі. Інш. традыцыйным напіткам быў хлебны квас, які ў ВКЛ выраблялі досыць салодкім. І квас, і бярозавы сок летам выкарыстоўвалі для прыгатавання халаднікоў. Папулярнымі былі адвары розных зёлак (ліпавага цвету, дзіванны, збіцень і інш.), узвары з яблыкаў, груш.

Кава распаўсюдзілася ў Рэчы Паспалітай з канца 17 ст. (традыцыйна лічыцца, што 1-я буйная партыя трапіла як трафей пры перамозе над туркамі ў Венскай бітве 1683). Вельмі хутка яна набыла вял. папулярнасць сярод шляхты і мяшчан і пачала лічыцца адным з «сармацкіх» нац. сімвалаў; ніжэйшыя саслоўі імітавалі каву з пражаных жалудоў, ячменю, цыкорыі. З гарбатай шляхта пазнаёмілася ў сярэдзіне 18 ст., але да падзелаў дзяржавы яна так і не набыла папулярнасці, мела рэпутацыю толькі аптэчнага сродку.

Бел. і літоўскія кулінарныя традыцыі не былі паслядоўна асэнсаваныя і стандартызаваныя. Асн. сродкамі перадачы традыцыі была карчомная, дваровая і хатняя практыка. На працягу стагоддзяў каралям польскім і вял. князям літоўскім пад час іх побыту ў Гродні гатавалі кухары-сяляне з вёсак Гарадзенскай эканоміі, чые вольнасці і абавязкі былі спадчыннымі. У ВКЛ амаль не выдаваліся практычныя дапаможнікі па гаспадарцы, былі распаўсюджаныя польск. выданні («Эканоміка» Я.Гаўра вытрымала некалькі выданняў у 17–18 ст.). У 1673 у Слуцку выдадзены «Абшарнік, або Гаспадар ліфляндскі» І.Германа, які змяшчаў элементарныя звесткі пра піваварства і інш. Першыя польск. кулінарныя кнігі – «Compendium ferculorum» кухмістра С.Чарнецкага (1682), «Кухар дасканалы» В.Вялёндкі (1786) – мелі адносна шырокае распаўсюджанне і ў ВКЛ. Развіццю прафес. кулінарыі перашкаджала вузкасць унутранага рынку. Большасць сялян купляла на рынку мінімум прадуктаў (соль, селядцы), гараджане яшчэ і мясц. вырабы, якія рэдка набывалі агульнакраёвую вядомасць (як смаргонскія «абаранкі» і г.д). Мала было рамесных цэхаў па вытворчасці харчовых прадуктаў (за выключэннем рэзнікаў, саладоўнікаў, алейнікаў, пекараў). Спробы зафіксаваць і сістэматызаваць традыцыі прыгатавання і спажывання ежы і пітва ў ВКЛ пачаліся толькі ў 19 ст. – «Літоўская гаспадыня» Г.Цюндзявіцкай (1848), «Кухарка літоўская» В. Завадскай (1874). Аднак многія стравы ВКЛ, якія пачаткова лічыліся ў Польскім каралеўстве «варварскімі», у 18–19 ст. заваявалі высокую рэпутацыю ў польскай кулінарыі і такім чынам набылі больш шырокую міжнар.

вядомасць (халаднікі, калдуны, моцна вэнджаная шынка «па-літоўску» і г.д.). У 19 ст. маніфестацыя вернасці традыц. кулінарыі была адным са сродкаў захавання культ. ідэнтычнасці адукаваных пластоў грамадства.

*Літ.:* Dembińska M. Konsumcja żywnościowa w Polsce średniowiecznej. Wrocław etc., 1963; Kuchowicz Z. Obyczaje staropolskie XVII–XVIII ww. Łódź, 1975; Lemnis M., Vitry H. W staropolskiej kuchni i przy polskim stole. Warszawa, 1979; Kowecka E. W salonie i w kuchni. Warszawa, 1989; Похлебкин В. Национальные кухни наших народов. М., 1991; Литовская кухня. Мн., 1991; Белорусская кухня. Мн., 1993; Літоўская гаспадыня. Мн., 1993; Зайкоўскі Э.М., Тычка Г.К. Старадаўняя беларуская кухня. Мн., 1995; Puronas V. Nuo mamutų iki cepelinų. Vilnius. 1999; Навагродскі Т. Традыцыі народнага харчавання беларусаў. Мн., 2000; Белы А. In laudem cerevisiae (на хвалу піва) // Спадчына. 2000. № 1; Bockenheim K. Przy polskim stole. Wrocław, 2003; Fiedoruk A. Kuchnia podlaska w rozhoworach i recepturach opisana. Białystok, 2003.

***Алесь Белы.***

## Адзенне

Старажытнымі матэрыяламі, з якіх выраблялі адзенне, былі воўна, скура і футра свойскай і дзікай жывёлы, тканіны з лёну і пянькі. У сялянскім адзенні гэтыя матэрыялы былі асноўнымі да пач. 20 ст. Сяляне апрацоўвалі сыравіну ў хатніх умовах, у гарадах гэтым займаліся спец. рамеснікі.

Рост рамеснай вытворчасці, гандлю, актывізацыя міжэтнічных сувязей спрыялі з'яўленню ў 1-й пал. 16 ст. новых відаў адзення (кабат, саян, андарак, армяк, даламан, кунтуш), некат. з іх былі запазычаны ў народаў інш. краін (Турцыі, Венгрыі і інш.). З сярэдзіны 17 ст. заможная шляхта і магнаты пераймалі зах.-еўрап. моду (пераважна французскую), у адзенні дробнай шляхты і мяшчан па-ранейшаму пераважалі традыц. формы. Адбывалася фарміраванне своеасаблівага гар. касцюма, які спалучаў у сабе традыц. і новыя элементы адзення. Новыя тэндэнцыі закранулі перш за ўсе святочнае адзенне, якое шылася з дарагіх тканін, багата ўпрыгожвалася і каштавала немалых грошай, у той час як хатняе адзенне нават заможных слаёў было даволі сціплым.



Барбара Радзівіл. Партрэт каля 1548.

Форма адзення, каштоўнасць тканіны і футра, з якіх быў пашыты касцюм, з'яўляліся сац. маркерам, сведчаннем заможнасці яго ўладальніка і яго месца ў структуры грамадства. Статусная роля адзення была замацавана заканадаўча: пастановамі соймаў Рэчы Паспалітай 1613, 1620 і 1665 асобам нешляхецкага паходжання забаранялася насіць адзенне з шоўку, аксаміту, каштоўнага футра, тканіны пурпуровага колеру, за нашэнне зброі тыпу «ардынкі», шабляў, мячоў, упрыгожанняў з серабра, золата, жэмчугу прадугледжваўся штраф.

У 2-й пал. 18 ст. быў заснаваны шэраг суконных мануфактур (фалюшаў), найб. вядомыя з якіх знаходзіліся ў Нясвіжы (належала Радзівілам) і Ружанах (належала



Я.Завіша ў дэліі. Партрэт 2-й чвэрці 17 ст.



Ганна з Кетлераў Радзівіл. Партрэт пасля 1585.



Аляксандра з Агінскіх Завіша. Партрэт 1650–60-х г.



Сапегам). Вырабы гэтых мануфактур рэалізоўваліся пераважна ў межах дзяржавы. Значная частка сукна прывозілася з-за мяжы. Імпартнае сукно часта наз. па месцы краіны ці горада-вытворцы: англ., чэшскае, фларэнскае, франц., гданьскае, гамбургскае, люнскае, мараўскае, ням., атаманскае, влоскае і г.д. З таннага імпартнага сукна (каразея, герліца, мараўскае, чэшскае, мухаяр і інш.) і сукна мясц. вытв-сці адзенне шылі дробная шляхта, мяшчане і заможныя сяляне. Імпарт дарагога сукна (англійскага, шыфтуха) быў значна меншым па аб'ёме, яно ішло ў асн. на патрэбы магнатаў і заможнай шляхты.

У залежнасці ад якасці сукно мела розныя назвы. Фалюндыш (ці лундыш) – сукно сярэдняй якасці – карысталася вял. попытам у асяроддзі дробнай шляхты; мухаяр – тканіна з казінай воўны – выкарыстоўвалася ў асн. для пашыву жаночага адзення; кір – тоўстае сукно для верхняй вопраткі – з 17 ст. выкарыстоўвалася і сялянамі; камлот ці чамлет – тканіна з воўны, часам напалову з шоўкам; каўтраш, хаба, сярмяга – грубыя гатункі сукна; з сярмягі пераважна шылі світы, сярмягі і інш.; шарак – тканіна з воўны і лёну, з яго шылі адзенне сяляне і дробная шляхта; хаба – тоўстае белае сукно; каламайка; капіца; сібірка і інш.

Шаўковыя тканіны з-за высокага кошту былі даступныя толькі заможным магнатам. Мяшчане і дробная шляхта куплялі шоўк для ўпрыгожвання святочнага адзення, пашытага з больш танных тканін. Найб. распаўсюджаная шаўковая тканіна – адамашак («адамасок», «адомаска», «одомашка») – аднакаляровая ці з узорамі тканіна з 2 правымі бакамі. Назва паходзіць ад месца вырабу – г. Дамаска. Шырока вядомы быў аксаміт, які ішоў на выраб адзення каралёў і магнатаў. Вельмі дарагой тканінай, якая закуплялася нават для каралёў у абмежаванай колькасці, быў атлас (фларэнційскі, венецыянскі, каляровы, кармазінавы і г.д.). Каралеўскія і княжацкія плашчы шыліся з павалокі пурпуровага колеру. У 16 ст. ў дакументах часта згадваецца алтабас – тканіна, шчыльна ператканая золатам ці серабром, яе называлі таксама златагловам ці срэбрагловам. Больш танным быў франц. бракат, які толькі месцамі быў ператканы залатымі і сярэбранымі ніткамі.

У дакументах 16–18 ст. згадваюцца значныя па колькасці запасы палатна. Палатно было неад'емнай часткай пасагу дзяўчат усіх саслоўяў. Выкарыстоўвалі палатно мясц. вытв-сці і імпартнае – коленскае (ням. з г. Кёльна ці чэшскае з г. Коліна) і камбру – тонкае, добра апрацаванае палатно. Мясц. палатно, часта даматканае, выкарыстоўвалася вышэйшымі саслоўямі ў якасці падкладкі да верхняга адзення, для пашыву бялізны (у т.л. пасцельнай і сталовай). У залежнасці ад якасці адрознівалі палатно кужэльнае (з добра апрацаванага лёну), зрэбнае (з дрэнна апрацаванага лёну з дамешкам пакулля ці пянькі) і самае грубае з адходаў пры апрацоўцы лёну.

Абавязковым элементам як мужчынскага, так і жаночага касцюма ўсіх саслоўяў была кашуля ці сарочка з імпартнага палатна ў багатых саслоўяў і з даматканага – у мяшчан і сялян. Часам сяляне рабілі каўнер, манжэты і верх кашулі з кужэльнага палатна, а ніз – са зрэбнага. Мужчынскія і жаночыя кашулі шылі доўгія, на іх апраналі плечавое і паясное адзенне. Мужчынскія сял. кашулі выкарыстоўваліся як паўсядзённае і як святочнае адзенне. Больш багатыя саслоўі ў асн. насілі сарочкі ў якасці бялізны, але часам мужчынскія кашулі ўпрыгожвалі вышыўкай, золатам, серабром. Такія кашулі выкарыстоўваліся і прывілеяванымі саслоўямі ў якасці святочных. Звестак пра ўпрыгожванне жаночых кашуль няма. Сяляне апраналі 2 кашулі, у такім выпадку другая была карацейшая за першую.

Абавязковым элементам мужчынскага касцюма былі таксама порты, порткі, споднi. У шляхецкім асяроддзі – гэта споднія штаны з даматканага палатна, на якія апраналіся верхнія штаны, пераважна з сукна, ці шырокія, сшытыя з адамашкі



І.М.Пачобут-Адляніцкі ў жупане і ферэзіі. Партрэт 1676.



К.Л.Плятэр у кунтушы і жупане. Партрэт 1760–62.

ці інш. тканін шаравары (ад перс. selvar). У сялян порткі былі адзіным відам паяснога мужчынскага адзення.

Адным з відаў жаночага плечавога адзення былі сукні з рукавамі і каўняром, даволі доўгія і прасторныя. У дакументах наз. сукні верхнія і споднія, шыліся яны пераважна з сукна, а таксама з воўны, шоўку і аксаміту.

Вельмі пашыраным у 16–18 ст. відам адзення шляхецкага саслоўя быў саян (ад італьян. saione кафтан). Даныя пра гэты тып адзення даволі супярэчлівыя. Асабліва падкрэсліваецца «жаноцкі саян». Гэта сведчыць пра тое, што ён – тып як мужчынскага, так і жаночага адзення. Саянам наз. плечавое адзенне накшталт курткі, жаўнерскае плацце з поясам, жаночы плашч. Яго шылі з фалюндышу, аксаміту, фаі, люнскага сукна і г.д. Часам саян меў аксамітны ліф з 2 падцяжкамі для падтрымкі сукенкі на плячах. У пазнейшы час у сял. насельніцтва саянам называлася жаночая спадніца з прышыўным ліфам. Гэты тып адзення блізкі да рус. сарафана.

У прывілеяваных саслоўяў былі андаракі (ад ням. unterrock спадніца) – жаночае даволі вузкае паяснoe адзенне. Яны шыліся з дарагіх імпартных ваўняных тканін – адамашкі, мухаяру і інш., часам падшываліся футрам ці ўпрыгожваліся золатам. З жаночага паяснога адзення вядомы таксама прасціцы і фартухі. Прасціца – гэта спадніца з хатняга вырабу сукна ці палатна. Але былі і даволі дарагія, якія цаніліся даражэй за кашулі і сярмягі. Сваю назву, відаць, атрымалі ад крою, які быў больш просты ў параўнанні са складанымі сукенкамі прывілеяваных саслоўяў. Фартух (хвартух) шылі з даматканага ці коленскага палатна.



Ю.Яленскі, палкоўнік 2-га палка пярэдняй стражы булавы вялікай ВКЛ у мундзіры. Партрэт 1780-х г.

У 17 ст. ў комплекс мужчынскага і жаночага касцюма ўваходзяць безрукаўныя тыпы адзення. Комплекс з безрукаўкай пашырыўся ў Зах. Еўропе з 15 ст., адтуль трапіў на тэр. ВКЛ спачатку як адзенне заможных слаёў насельніцтва, а на працягу 18–19 ст. зацвердзіўся і ў сял. асяроддзі. Адзначаюцца безрукаўныя кафтанік, жупіца, кабат, шнуроўка. Кабат у 16 ст. сустракаецца і як доўгае адзенне з рукавамі, і як жаночая камізэлька без рукавоў. Шыліся з сукна, адамашкі, футра. Жаночыя шнураваліся наперадзе, выраблялiся часам са златаглова. Часта насілі як састаўную частку шляхецкага касцюма. Шнуроўка – пераважна жаночае адзенне накшталт гарсэта.

З плечавога адзення 16–18 ст. вядомы таксама жаночыя летнік і юпка. Летнік – доўгая сукенка з рукавамі і каўняром з адамашкі ці інш. тканін, сустракаецца і як назва жаночай спадніцы. Юпа ці юпка – адзенне з рукавамі да локця ці да кісці, ззаду мела фалды ці была прыталеная і спераду зашпілялася на гузікі. Шылі юпкі з той жа тканіны, што і спадніцы, і насілі з ёй у камплекце. Летнія падшываліся палатном, зімовыя – футрам гарнастая ці вавёркі. У 18 ст. суконныя юпкі пачалі насіць і сялянкі, часам з футравым каўняром.

Выключна мужчынскім відам адзення быў жупан – найб. папулярнае адзенне шляхецкага саслоўя. Шылі жупаны з дарагога сукна, атласу, аксаміту жоўтага, чырвонага, блакітнага і інш. колераў, падшывалі палатном. Яны зашпільваліся на металічныя, сярэбраныя ці залачоныя гузікі або на аплікі, кроіліся двубортнымі, прамымі ці з прыталенай спінаю, вял. адкладным каўняром ці каўняром-стойкай і вузкімі рукавамі, якія шыліся трохі задоўгімі і ўтваралі дэкар. складкі. Упрыгожваліся каляровымі шнуркамі, залачонымі кнеблікамі і падпяразваліся прыгожымі паясамі. У 17 ст. распаўсюдзіліся даламаны (далманы, даломы). Назва і пакрой паходзілі ад турэцкіх янычарскіх плашчоў. Гэта вельмі доўгае адзенне з вузкімі рукавамі, сцягнутымі каля локцяў; шыліся з сукна, летнія – з атласу. Даламаны – ваенныя плашчы вядомы шматлікім еўрап. народам. Ваен. даламаны, што апраналіся на даспехі, шыліся кароткімі і былі падобныя на жупаны. Разам з жупанамі ў шляхецкай модзе прынята было апранаць кунтушы, якія пашырыліся з сярэдзіны 17 ст. Звычай насіць жупан з кунтушом захаваўся ў асяроддзі шляхты да сярэдзіны 19 ст. Гэты тып адзення запазычаны ад венграў (венг. köntös), а да венграў ён трапіў з Усходу, дзе так называлі адзенне турэцкіх саноўнікаў. Кунтушы былі пераважна святочным адзеннем, шыліся доўгімі, ніжэй за калена, але ў сярэдзіне 18 ст. сустракаюцца і ўкарочаныя – чэхманы. Выраблялiся кунтушы з шоўку, аксаміту, сукна яркіх колераў, але цямнейшых за колер жупана. Зімовы кунтуш падбіваўся футрам.


Сукня


Сукня


Сукня


Жупан


Шуба

Уборы канца 16 ст. Дрэварыты з кнігі Б.Папроцкага «Гняздо цноты». 1578.

Доўгія рукавы разразаліся да пляча і ззаду закладваліся за пояс, але гэты прывілей мелі толькі знатныя асобы. Насілі яго незашпіленым, каб быў відаць жупан. Кунтуш аздабляўся сярэбранымі, залатымі ці шаўковымі шнурамі, падпяразваўся адмысловымі паясамі, з 18 ст. стаў модным звычай падпяразваць кунтушы слуцкімі паясамі, што паспрыяла арганізацыі і росту вытворчасці апошніх. Кунтушок з адкіднымі рукавамі быў таксама і жаночым адзеннем. У 18 ст. замест кунтушоў у якасці ваен. мундзіра апраналі катанку (ад венг. katona салдат). Катанку насілі і як цывільную вопратку, у т.л. і жанчыны.

Разам з кунтушом увайшла ў шляхецкую моду ферэзія (фярэзья, ферäзь, фаразея, фаразія, ферäзыя) – лёгкае мужчынскае і жаночае адзенне свабоднага крою з шырокімі рукавамі і доўгім каўняром ці без каўняра. Яно не падпяразвалася, спераду зашпільвалася на гузікі (часам залачоныя ці зробленыя з каштоўных камянёў). Шылі ферэзію з розных тканін яркага колеру, пераважна чырв. ці блакітнага, падбівалі футрам рысі, собаля, ліса.

Вельмі распаўсюджаным мужчынскім адзеннем быў кафтан ці кафтанік. Шыліся кафтаны з шоўку, скуры, сукна, кітайкі і інш. Гэта было кароткае адзенне з доўгімі рукавамі, якое зашпільвалася спераду на гузікі ці аплікі. Насілі кафтаны замест жупана пад кунтушом.

Мужчынскае і жаночае плечавое адзенне мела шмат агульнага. Яго шматлікія віды (сарочкі, ферэзіі, катанкі і г.д.) амаль не мелі адрозненняў не толькі ў назве (мужчынскі кунтуш, жаночы кунтушок), але і ў крОі. Асн. адрозненні паводле палавой і сац. прыналежнасці былі ў паясным адзенні, а ў плечавым – толькі ў колеры і аздабленні вопраткі.

Верхняе адзенне выраблялася з больш тоўстых і грубых гатункаў палатна і сукна. Узімку вельмі папулярным было адзенне з футра. Вядома больш за 40 назваў верхняга адзення 16–18 ст.: аднарадка, епанча, мятлік, капеняк, армяк, дэлія, ферэзія, чуга, бурка, кафтан, бекеша, плашч, газука, дэлюра, даламан, зіпун, сукман, катанка, ахабень, лакатуха, казакін, цегіляй, тарлоп, венгерка, чамара, кірэя, шуба, кажух, тулуп, сярмяга і інш.

Епанча («епонча», «апонча», «опанча») – плашч з сукна, часам без рукавоў, у час паходаў да яго прышываўся башлык. Епанча блізкая да кірэі і буркі. Кірэя таксама суконны плашч, назву атрымала ад тканіны (кіры), з якой выраблялася. Кірэя з башлыком называлася буркай. Сял. адзенне аналагічнага крою і матэрыялу называлася чуяй, чуйкай. Таксама вядомая аднарадка – аднабортнае адзенне з рукавамі без каўняра, якое шылася з імпартных тканін і было ў асноўным адзеннем шляхты сярэдняй заможнасці. Чамара – доўгая адзежына з рукавамі (часам кароткімі), шылася з сукна і ўпрыгожвалася на грудзях і на поясе шнуркамі. Чаркеска – кароткая да каленяў адзежына з адразной спінкай, з сабраным у фалды нізам.

Адзенне сялян выраблялася з матэрыялаў, якія можна было атрымаць з сял. гаспадаркі. Гэта найперш даматканае палатно, сукно і аўчыны. І мужчыны, і жанчыны насілі світку (капоту) – суконную доўгую адзежыну з рукавамі і каўняром-стойкай. Світкі былі белага, сіняга, бурага колеру, жаночыя шыліся з адкладнымі каўнярамі і ўпрыгожваліся вышыўкай і каляровымі шнуркамі. У дрэннае надвор'е апраналі насоў – адзежыну накшталт плашча, пашытую з грубага палатна.


Літоўская сялянка ў зімовай вопратцы. Малюнак Я.П.Норбліна.

І шляхта, і сяляне насілі армякі, сярмягі, аднарадкі, латухі, катанкі, казакіны, кафтаны. Адрозніваліся яны якасцю матэрыі, з якой шыліся, і ўпрыгожаннямі. Калі сял. вопратка была ў асн. з даматканых тканін, то шляхецкая – з тканін імпартных. Армяк (ермяк, ормяк, кгермяк, гіермяк; ад тур. my armak) – доўгая адзежына з воўны ці сукна. Сярмяга – пераважна сял. адзенне шэрага (адкуль і назва) ці карычневага колеру з тоўстага сукна. Латуха спачатку была вял. хусткай, якую насілі жанчыны ў непагадзь, але з цягам часу яна наблізілася ў крОі да світы.

Клімат ВКЛ абумовіў нашэнне цёплага, найчасцей футравага адзення ўзімку. У сял. асяроддзі гэта быў звычайна кажух, які шылі з аўчыны футрам уніз, з рукавамі і адкладным каўняром. Жаночы кажух быў карацейшы за мужчынскі і прыталены. Шуба (ад тур. dzuppe)– футравае адзенне больш заможных слаёў насельніцтва, шылася з больш каштоўных відаў футра і пацягвалася тканінай рознага колеру і гатунку. З'явілася ў Зах. Еўропе ў час крыжацкіх паходаў. Мужчынскія і жаночыя шубы адрозніваліся даўжынёй і кроем (жаночыя былі пры-

таленыя), жаночыя шубы наз. шубка, паўшубак. Зашпільваліся на аплікі ці гузікі, часам сярэбраныя ці залачоныя. Ад часоў Стафана Баторыя ў асяроддзі шляхты ВКЛ пайшла мода на турэцка-венгерскі варыянт футра, т.зв. дэлію (дэлея, дылея, дылія). Дэлія была часткай комплексу ваен. абмундзіравання, апраналася паверх рыцарскіх даспехаў і таму шылася без рукавоў ці з кароткімі рукавамі, што было зручна пры валоданні зброяй. У адрозненне ад шуб дэліі шыліся кароткімі для зручнасці пры верхавой яздзе, зверху абшываліся рознымі тканінамі яркіх колераў (пурпуровага, пунсовага і г.д.), мелі вял. футравы каўнер. Дэлію прынята было насіць накінуўшы на плечы ці прасунуўшы ў рукаў адну руку, зашпіленай на шыі на вял. гузік. Жанчыны з заможнай шляхты насілі тарлопы – адзенне з каштоўных відаў футра: куніц, гарнастаяў, сабалёў.

Абавязковым дапаўненнем камплекта адзення, асабліва мужчынскага, былі паясы – скураныя, плеценыя, тканыя. Скураныя паясы ўпрыгожваліся метал. бляшкамі, спражкамі, часта аздобленымі каштоўнымі камянямі. На поясе насілі зброю, кашалі (каліты), упрыгожанні (цаты), нажы, крэсіва і г.д. У 18 ст. вял. папулярнасць у шляхецкіх колах набылі слуцкія паясы, якімі падпяразвалі кунтушы. Слуцкія паясы былі 2-баковыя, прычым бакі мелі розны колер. Набываць слуцкія паясы маглі толькі заможныя слаі насельніцтва, таму яны былі своеасаблівым паказчыкам багацця і месца іх уладальніка ў грамадстве.

**Галаўныя ўборы.** У адрозненне ад адзення галаўныя ўборы больш выразна падзяляліся на мужчынскія і жаночыя. Яны адлюстроўвалі сацыяльнае, сямейнае (асабліва жаночыя), маёмаснае становішча іх уладальніка.

Жаночыя галаўныя ўборы адрозніваліся ад дзявочых. Калі замужняя жанчына абавязкова хавала валасы пад галаўны ўбор, то дзяўчаты пакідалі макушку адкрытай. Нават калі галаўныя ўборы дзяўчат і жанчын былі зроблены з аднолькавага матэрыялу і мелі адну назву, насіліся яны па-рознаму. У сярэдневякоўі пераважалі складаныя жаночыя галаўныя ўборы з 3 частак – ручніковага галаўнога ўбору, цвёрдай асновы і чапца. Чапцы шылі з тонкага белага палатна, мяшчанкі і шляхцянкі ў 17 ст. ўпрыгожвалі чапцы футравай апухай, з унутр. боку прышываліся тонкія карункі.

Неабходнай часткай складанага галаўнога ўбору была тканіца ці брамка. Сяляне выраблялі тканіцу са скруткаў ільняной кудзелі, лубавых абручоў, на якія накручваліся валасы. Замужнія жанчыны на чапец і тканіцу накручвалі ручніковыя галаўныя ўборы, дзяўчаты маглі насіць тканіцу самастойна. Заможныя саслоўі рабілі тканіцу ці брамку з жэмчугу, золата, златаглова. Такія дарагія брамкі не накрываліся ручніковымі ўборамі.

У 18–19 ст. шырока ўжываўся дзявочы галаўны ўбор чало, чолка – абруч з бяросты або лубу, абшыты палатном, пакрыты парчой, фольгай і багата аздоблены кветкамі, лісцем, пацеркамі. Ззаду прымацоўваліся каляровыя стужкі ці вышытая шырынка. Такі галаўны ўбор выкарыстоўваўся ў якасці вясельнага. Дзяўчаты насілі таксама бінды – доўгія галаўныя павязкі з лёну, воўны, шоўку, часам упрыгожаныя каштоўнымі камянямі. Біндай наз. таксама рыцарская павязка, да якой прывешвалі меч.

Ручніковыя галаўныя ўборы (наміткі) са старажытнасці былі шырока вядомы ўсім усх. славянам, балтам і інш. народам. Яны сустракаюцца на рус. царк. фрэсках 12 ст. і стараж. партрэтах. Наміткі насілі як сялянкі (да сярэдзіны 19 ст.), так і шляхцянкі. Гэты галаўны ўбор уяўляе сабою доўгі (2,5–3,5 м) ручнік з тонкага кужэльнага даматканага ці імпартнага палатна белага колеру, які завязвалі самымі разнастайнымі спосабамі, у залежнасці ад традыцыі той ці інш. мясцовасці. Звычайна намітка некалькі разоў агінала галаву, прапускалася пад падбародкам, пры гэтым адзін ці два канцы яе свабодна звісалі. Дзяўчаты намітку завязвалі вакол галавы, пакідаючы адкрытай макушку, жанчыны закрывалі наміткай галаву поўнасцю.

Акрамя наміткі насілі хусты ці хусткі з імпартнага палатна, вышытыя шаўковымі ніткамі чырв. ці інш. колеру. Рантух (рантушак, рэнтух, ранкушак, ранцушак, ад ням. randtuch край сукна) – хустка, якую насілі на галаве ці на плячах; выраблялася з сукна, лёну, воўны, упрыгожвалася вышыўкай. Жанчыны-шляхцянкі завязвалі рантух на чапец, таксама пад футравы каўпак.

Жанчыны пануючых саслоўяў насілі шапкі, абшытыя дарагой тканінай з футравай апухай. У 2-й пал. 16 ст. сталі моднымі берэты з круглым донцам, упрыгожаныя вышыўкай, рознакаляровым пер'ем, шпількамі з каштоўных металаў. З 2-й пал. 17 ст. з'яўляюцца чапцы, упрыгожаныя каштоўнымі металамі і камянямі, толькі назвай падобныя да сял. чапца.



Бекеша



Бекеша



Кафтан



Каўпак



Каўпак



Уборы канца 16 ст. Дрэварыты з кнігі Б.Папроцкага «Гняздо цноты». 1578.



Мужчынскі галаўны ўбор (шапка) часцей за ўсё быў паўсферычнай формы, абшыты сукном ці інш. тканінамі, футравы ці з футравай апухай. Шапкі заможных слаёў насельніцтва шыліся з футра труса, ваверкі, собаля, гарнастая, куніцы і інш. Сял. футравыя шапкі былі ў асн. з аўчыны і не фарбаваліся, мелі натуральны колер. Каўпакі шылі з чырвонага сукна, аксаміту і падшывалі футрам, часцей за ўсё ліса.

Вял. папулярнасць мелі шапкі-магеркі (ад венг. magyar венгр). З'явіліся ў Рэчы Паспалітай у часы Стафана Баторыя, калі магерку насіў сам кароль і яго набліжаныя. У шляхецкіх колах магерка яшчэ мела назву «батарувка». Шылася з сукна ці аксаміту і аздаблялася пер'ем. З цягам часу сярод мяшчан і сялян пашырыліся лямцавыя конусападобныя шапкі-магеркі.

У дробнай шляхты папулярныя былі канфедэраткі – шапкі з 4-вугольным дном, кармазінавыя ці гранатавыя, абшытыя аўчынай, з чырв., зялёным, чорным верхам.

Вядомы былі таксама кучма – высокая шапка з сінім верхам, абшытая футрам собаля, шлык – мужчынскі і жаночы конусападобны галаўны ўбор з каштоўных відаў футра і чырв. сукна (у простага люду – саламяныя шлыкі). Вельмі пашыраны былі капелюшы, якія выраблялiся ў сялян з саломы, у мяшчан і шляхты з лямцу, у магнатаў з сукна і аксаміту, упрыгожаныя каштоўнымі камянямі. Брылі (саламяныя капелюшы) насілі ў спякоту і сяляне, і шляхта.

Галаўныя ўборы беларусаў. Гравюра 19 ст.

**Абутак.** З даўніх часоў абутак шылі са скуры свойскай жывёлы. Рамёствы па апрацоўцы скур атрымалі значнае развіццё ў 16–18 ст.: выраблялі юхт, саф'ян, замшу, казловыя скуры. Скуры фарбавалі ў розныя колеры раслiннымі і мінер. фарбамі. Абутак шылі самых разнастайных колераў і падбіралі пад колер адзення. Але гэта тычылася толькі шляхецкага саслоўя, мяшчане і сяляне насілі ў асн. чорны абутак.

Самым стараж. тыпам скуранога абутку былі пасталы, хадакі, поршні, якія шыліся з аднаго кавалка сырамятнай скуры і прывязваліся да нагі скураным раменьчыкам, прымацаваным да верху абутку.

Святочным абуткам гараджан і сялян былі чаравікі – мяккі скураны абутак. Усе слаі насельніцтва насілі боты, чобаты з цвёрдымі падэшвамі і насамі, загнутымі ўверх. У шляхты боты былі кідкіх колераў з высокімі халявамі, якія замацоўваліся пад каленам рэменем ці тасьмою. Ногі абгортвалі палатнянымі ці суконнымі анучамі, толькі пазней з'явіліся шкарпэткі. Знутры боты высціталіся саломай ці анучамі.

Жаночы абутак амаль не адрозніваўся ад мужчынскага, але жанчыны не насілі ботаў з высокімі халявамі. Ён у большай ступені ўпрыгожваўся вышыўкай, шыўся з цісненай скуры, хаця такія боты насілі і мужчыны.

У сял. асяроддзі найб. папулярныя былі лапці са скуры ці плеценыя з лыка.

Уборы жыхароў ВКЛ і Польшчы. Гравюры з кнігі Чэзарэ Вечэліё «Degli abili antichi e moderni ...». Рым. 1590.







**Упрыгожанні.** Адзенне ўсіх слаёў насельніцтва, асабліва шляхты, аздаблялася вышыўкай, нашыўнымі каляровымі шнурамі і стужкамі, галунамі, карункамі, залатымі і сярэбранымі гузікамі. Ні адзін прадмет шляхецкага адзення не заставаўся без аздобы. Упрыгожваліся нацельнае і верхняе адзенне, абутак і галаўныя ўборы. У сял. асяроддзі ўпрыгожвалася ў большай ступені жаночае адзенне.

Акрамя нашыўных усе саслоўі насілі здымныя ўпрыгожанні: сялянкі – каралавыя пацеркі, пярсцёнкі, завушніцы; заможныя слаі насельніцтва – залатыя і сярэбраныя ланцужкі, жамчужныя каралі, бранзалеты, кольцы, пярсцёнкі, запінкі і інш. Жэмчуг – даволі папулярны ў шляхецкіх упрыгожаннях. Яго выкарыстоўвалі пры аздабленні адзення, абутку, галаўных убораў. Некат. віды галаўных убораў (перлавая брамка) цалкам рабілі з жэмчугу.

Магнаты, шляхта і вышэйшае духавенства на ўказальным пальцы правай рукі насілі *сыгнет* – пярсцёнак з пячаткай, своеасаблівае засведчанне асобы.

*Літ.*: Беларускае народнае адзенне. М., 1975; М о л ч а н о в а Л.А. Очерки материальной культуры белорусов XVI–XVIII вв. Мн., 1981; Древняя одежда народов Восточной Европы. М., 1986; Историко-этнографический атлас Прибалтики: Одежда. Рига, 1986; Х а д ы к а А. Старабеларуская шляхецкая мода // Спадчына. 1992. № 3; Б а р в е н а в а Г. Гатычны касцюм Вялікага княства Літоўскага канца XIII–пачатку XVI ст. // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Я е ж. Ідэал прыгажосці і перыядызацыя беларускага гістарычнага ўбрання з IX па XVI ст. // Terra Alba. Т. 2. Homo venerius: сексуальная прастора беларускай культуры. Мн., 2001; У л а щ и к Н. Одежда белорусов XVI–XVIII вв. // Улашчык М.М. Выбранае. Мн., 2001; M a t u š a k a i t ė M. Apranga XVI–XVIII a. Lietuvoje. Vilnius, 2003.

***Ірына Махоўская.***

### Жыллё

У шырокім сэнсе жыллё ахоплівае не толькі жылыя памяшканні, але і падсобныя, гасп. і прамысл. пабудовы, кожная з якіх выконвала пэўныя функцыі ў сістэме сядзібы, утвараючы адзіны жыллёва-бытавы комплекс. Апошні ў традыц. варыянце складалі жылыя пакоі (хата), сенцы, клець, варыўня (стопка), склеп (пограб), павець, гумно (клуня, стадола), сушня (асець, ёўня), лазня, хлявы, рамесная майстэрня і інш. У 13–18 ст. пераважная большасць гэтых пабудоў была вядома на ўсёй Беларусі, некаторыя (варыўня, асець, лазня) мелі больш абмежаваны арэал бытавання. Пры гэтым важную ролю адыгрывалі гіст. традыцыя ў тым ці інш. рэгіёне (Падзвінне, Падняпроўе, Панямонне, Палессе і інш.), а таксама тып паселішча (горад, вёска, засценак, фальварак) і сац. склад жыхароў. У гар. рамеснікаў жыллё звычайна сумяшчала ў сабе і спецыялізаваную майстэрню, у гандляра – краму. Жылыя памяшканні існавалі пры замках, манастырах, заезных дамах, корчмах. Магнаты будавалі для сябе палацы абарончага тыпу. Тыя ж памкненні назіраліся ў гараджан, жылыя дамы якіх мелі брамы і невял. ўнутраны двор, праз які вёў уваход у дом. Замкнутыя (вяночныя) двары з кампактнай забудовай і зачыненымі брамамі былі ўласцівы і сял. сядзібам, асабліва ў Падзвінні і Падняпроўі.



План в. Мыта ў Троцкім ваяв. 1678.

На вёсцы найб. распаўсюджаным было 2-камернае жыллё (хата + сенцы). У сенцах часам адгароджвалася камора (кладоўка). У 16–18 ст. нярэдкім было і 3-камернае жыллё (хата + сенцы + клець; хата + сенцы + варыўня). Клець, апрача захоўвання тут збожжа, мясных і інш. прыпасаў, служыла паўжылым памяшканнем і магла быць, як і сенцы, прыстасавана да жылля. Паводле этнагр. матэрыялаў 19 ст., якія можна рэтраспектыўна адносіць да 17–18 ст., у вял. 3-пакаленнай сям'і палескага селяніна было некалькі клецей – па колькасці жанатых мужчын. Агр. рэформа 1557 («Устава на валокі») прывяла да перабудовы мноства сельскіх паселішчаў у зах. частцы Беларусі, утварэння новых вёсак вулічнага тыпу. Устаўныя вёскі з жылымі памяшканнямі, клеццю, варыўнёй, хлявамі размяшчаліся на адным баку вуліцы, а гаспадарчыя (гумно, адрыны для сена, азяроды,




1




2




3



4

Планы вёсак Слуцкага княства з інвентара 1682: 1–Бранчыцы; 2–Капацэвічы; 3–Півашы; 4–Жабін.

студня) – на другім. У 17–18 ст. пашырылася будаўніцтва шматкамерных сядзібна-паркавых комплексаў (ансамбляў), спачатку драўляных, крыху пазней – мураваных у стылі барока.

Большасць вясковых хат былі курнымі. Яны мелі высокую скляпеністую («гарбатую») столь, што заканчвалася ў цэнтры невял. адтулінай (верхнік, дымнік, душнік), і 3 ці 4 невял. валакавыя акны. Збоку пры ўваходзе – глінабітная печ без коміна; калі яе палілі, дым ішоў на хату і выходзіў праз верхнік. На Палессі былі вядомы печы, што выходзілі вусцем у сенцы. Жар у печах (нязгасны агмень) падтрымліваўся заўсёды. Агнём даражылі як сямейнай святыняй, што ўвасабляла дух продкаў (лічылася, што дамавік жыве за печчу). Сімвалічны агмень – гаршчок з гарачымі вуголлямі пры наваселлі ў ліку першых прадметаў разам з абразамі пераносілі са старой хаты ў новую. Каля печы ўздоўж глухой сцяны на вышыні каля 1 м уладкоўвалі спальны памост (пол) з матрацам (сяннік), падушкамі, коўдрай; вышэй над ім на ўзроўні ляжанкі печы – больш вузкі і кароткі памост – палаці. Ніжэй акон уздоўж двух сцен рабілі шырокія лавы, якія сыходзіліся на покуці. Покуць – самае шаноўнае месца ў хаце, эпіцэнтр духоўнага жыцця. Тут вісялі абразы, убраныя чыстымі ўзорыстымі ручнікамі (набожнікі), пучкі асвячоных у царкве каласоў і траў. На покуці стаяў стол, заслаНы абрусам, на стале заўсёды пакідалі хлеб, загорнуты ў чысты ручнік, і соль. Хату асвятлялі лучынай, якую замацоўвалі ў спец. стойцы – лучніку. Лучыну ці смалісты корчык палілі таксама на глінабітнай пляцоўцы, уладкаванай пад дымаходнай трубой (светач, комін) насупраць печы. У святочныя дні палілі васковыя свечкі. Іх шырока выкарыстоўвалі ў храмах, шляхецкіх сядзібах і корчмах, ставячы ў па-мастацку афармленыя жырандолі і падсвечнікі. У панскіх маёнтках уладкоўвалі каміны. Тут, як і ў дамах заможных гараджан, пашырыліся «белыя» печы, абліцаваныя маст. кафляй.

Сядзібны дом маёнтка Кавалёўшчына каля Стоўбцаў. Малюнак з інвентара пач. 18 ст.



Асн. матэрыялам для будаўніцтва жылля на тэрыторыі Беларусі было дрэва – хвоя, радзей елка, дуб, асіна. З дубу рабілі аснову фундамента, ніжні вянок зруба (падруба), апорныя слупы, асаду акон і інш. Асн. будаўнічыя канструкцыі – зрубная і зрубна-каркасная, якія мелі шэраг тыпалагічных варыянтаў і пераходных форм. У больш архаічным варыянце сцены падсобных і гасп. пабудоў у сістэме сядзібы ўяўлялі сабой каркас з жэрдак, які заплятаўся гнуткімі галінамі вярбы, уцяпляўся саломай, чаротам ці абмазваўся глінай. Са стараж. часоў



Маёнтак Шаўры Лідскага пав. (радзіма гісторыка Т.Нарбута). Малюнак Н.Орды.

жыллё рабілася з цэлых круглых (папярэдне акораных) бярвён (кругляка), якія падганяліся адно да аднаго падоўжным пазам і злучаліся па вуглах у трывалы замок (просты вугал з астаткам, «у чашку»). Такая тэхніка будаўніцтва бытавала на тэр. славянскага рассялення і ў Прыбалтыцы. У зах. раёнах Беларусі ў 17–18 ст. ужо нярэдка (асабліва ў гарадах і фальварках) сустракаліся пабудовы з брусковых бярвён з вугламі «ў лапу» ў 2 разнавіднасцях – з астаткам і без астатку (гладкі, або «прускі» вугал). У Зах. Палессі разам з брусковымі ўжывалі т.зв. дылі – расколатыя ўздоўж бярвёны, злучаныя ў больш трывалы вугал – «канюк». На нізкіх поймавых участках жылыя і падсобныя пабудовы нярэдка ставілі на палях. У маёнтках заможнай і сярэдняй шляхты жыллё будавалі на мураваным фундаменце ці высокіх падклецях; уваход у яго вёў праз высокі крыты ганак. 2-павярховыя драўляныя жылыя будынкі былі вядомы ўжо ў 14 ст. Завяршэнне будаўніцтва жылля было звязана з апорнай асновай (зрубная ці закотавая, слупавая, каркасная) і формай даху (2-схільны, 4-схільны, паўвальмавы, «ламаны» дах і інш). Дахі крыліся саломай, трыснягом, дошкамі, драніцай, радзей – чарапіцай. У будаўніцтве жылля вылучалася некалькі этапаў: выбар месца, нарыхтоўка драўніны, закладка першага вянка, узвядзенне страхі, муроўка печы, наваселле, якія суправаджаліся адпаведнымі звычаямі, урачыста-абрадавымі дзеяннямі, абярэгамі, павер'ямі.

Тыпы тагачаснага гарадскога жылля паводле архітэктурна-пláніровачных асаблівасцей былі разнастайнымі. У яго аснове – хата і 1-камерная клець. Спалучэнне яе з прырубамі (трысценамі), размешчанымі па восевай лініі асн. зруба ці пад прамым вуглом да яго, стварала розныя планіровачныя мадыфікацыі дома. Буд. тэхніка, матэрыял і канструкцыйныя дэталі паўтаралі вясковае дойлідства, але на больш высокім тэхн. і якасным узроўні. Дамы рамеснікаў і гандляроў спалучалі традыц. жыллё і майстэрню або краму. У заможных гараджан дамы мелі развітую планіроўку, складаныя архітэктурныя формы. Некат. з іх былі 2-павярховыя, мелі адкрытыя галерэі, вежападобныя ганкі, печы з комінамі. На замкавых тэрыторыях размяшчаліся жылыя дамы буйной шляхты, гар. адміністрацыі, багатых рамеснікаў і гандляроў. На пасадах і ў слабодах сяліліся рамеснікі, дробныя гандляры. Заможныя мяшчане будавалі 2-камерныя дамы з аднолькавых або розных па памерах зрубаў пад 2-схільнай страхой. Найбяднейшая частка гар. насельніцтва жыла ў невял. курных хатах з земляной падлогай. У 18 ст. ў гарадах засноўваліся разнастайныя мануфактуры. Для наёмных рамеснікаў і майстроў (у Гародні, Паставах і інш.) будаваліся дамы амаль квадратныя ў плане (8х9 м), у якіх сціпла, спрошчана выкарыстаны барочныя формы. Гэта была першая спроба комплекснай забудовы горада танным тыпавым маламетражным жыллём. Для адміністрацыі і службовага персаналу будавалі 2- і 3-павярховыя дамы.

У Літве найб. старажытным жылым збудаваннем быў намас з адкрытым агменем і без столі. Першапачатковая пабудова-намас складалася з аднаго памяшкання, выка-



рыстоўвалася для жылля і ў якасці памяшкання для жывёлы. Але пабудовы, якія захаваліся да 16 ст., мелі ўжо некалькі памяшканняў: цэнтральны з адкрытым агменем (намас), камора, у якой спаў гаспадар, намагаліс, у якім трымалі жывёлу, і лепіс (накшталт веранды). З развіццём феад. адносін намас стаў гасп. пабудовай (хлявом), а яго гал. памяшканне з агменем некат. час служыла летняй кухняй або месцам для прыгатавання корму для жывёлы. У 9–12 ст. ва ўсх. частцы Літвы пачаў фарміравацца новы тып жылля – хата са столлю і печчу, запазычанай у славян. Яна распаўсюдзілася па ўсёй Літве, але ў кожным этнагр. рэгіёне набыла своеасаблівыя рысы (розныя планы, аб'ёмы, формы). У 18 ст. сфарміраваліся 3 асн. тыпы традыцыйнага сялянскага жылля: у Жамойці – т.зв. троба, у Аўкштайціі і Дзукіі – т.зв. піркя, у Сувалькіі – т.зв. стуба. Прататыпам тробы і стубы быў намас, пірка развілася з курнай хаты. Збудаванні розных рэгіёнаў адрозніваюцца планіроўкай (троба мела 4–12 памяшканняў, пірка – 3–6, стуба – 4–8 з кухняй), прапорцыямі і аб'ёмамі (у Жамойці пашырыліся доўгія і шырокія, у Аўкштайціі і Сувалькіі – вузкія, доўгія пабудовы), формай даху (у Жамойці пераважалі высокія паўвальмавыя або 4-схільныя, у Аўкштайціі – 2-схільныя, 4-схільныя, больш нізкія або паўвальмавыя, у Сувалькіі – 2-схільныя дахі). Гасп. пабудовы знаходзіліся асобна ад жылых памяшканняў. Ва ўсіх рэгіёнах жыллё будавалася з бярвён, страха накрывалася саломай, трысьнягом (у прыморскай зоне), дошкамі або драніцай. Вокны былі маленькія, падлога – земляная.



Фальварак Завоссе Навагародскага пав. (радзіма паэта А.Міцкевіча). Малюнак Н.Орды.

Гар. жыллё развівалася больш хутка, што было звязана з архітэктурнымі стылямі Зах. Еўропы, якія распаўсюдзіліся ў архітэктуры гарадоў Літвы. У 13–14 ст. жылыя дамы былі драўляныя, з печчу, драўлянай падлогай. Складаліся з 1–3 пакояў. З сярэдзіны 14 ст. пачалі будавацца мураваныя дамы. У перыяд готыкі (да 17 ст.) яны былі 2-павярховыя, з падваламі, сцены неатынкаваныя. У 17 ст. гатычныя жылыя дамы набылі рысы рэнесансу (т.зв. дом Пяркунаса ў Коўне). Дамы былі мураваныя, 2-павярховыя, з атыкамі або франтонам, сцены атынкаваныя, дах высокі; складаліся з некалькіх карпусоў, размешчаных вакол рознай планіроўкі двароў (Кейданы, Вільня, Коўна). Памяшканні перакрываліся драўлянай столлю, крыжовымі або цыліндрычнымі скляпеннямі, абаграваліся кафельнымі печамі. Шляхта ў 16–18 ст. для жылля будавала пышныя палацы. У пач. 16 ст. ў некат. жылыя дамы ў Вільні быў праведзены водаправод. У канцы 17 ст. пачалі ўзводзіцца барочныя жылыя дамы. У Клайпедзе, Вільні, Коўне былі рэканструяваны старыя гатычныя і рэнесансныя дамы. Барочныя дамы былі 2-павярховыя, вузкія, доўгія, з падваламі, драўлянай страхой (у 17–18 ст. выкарыстоўвалася і чарапіца); складаліся з некалькіх карпусоў (з галерэямі), размешчаных вакол закрытых унутраных двароў.

Эвалюцыя жылля ў ВКЛ ішла па шляху ўдасканалення будаўнічых канструкцый і інструментаў (сякера, цясло, струг, гэбель, долата, свердзел, піла і інш.), уключэння ў вытворчы працэс новых матэрыялаў (дрэва, цэгла, камень, метал), функцыянальнага размеркавання асобных частак з улікам практычных і эстэт. запатрабаванняў, змены архітэктурных школ і стыляў, узаемаўзбагачэння прафес. майстэрства і рэгіянальных традыцый нар. дойлідства.

*Літ.*: Х а р у з и н А. Славянское жилище в Северо-Западном крае. Вильна, 1907; G l o g e r Z. Budownictwo drzewne i wyroby z drzewa w dawnej Polsce. T. 1–2. Warszawa, 1907–09; Г о з и н а Г.И. Жилища и хозяйственные постройки восточной Литвы // Балтийский этнографический сборник. М., 1956; Б е л и н с к а с Ф.К. Литовское народное зодчество. М., 1960; Литовское народное зодчество. Ч. 1–2. Вильнюс, 1965–68; Беларускае народнае жыллё. Мн., 1973; Древнее жилище народов Восточной Европы. М., 1975; D a u g u d i s V. Senoji medinė statyba Lietuvoje. Vilnius, 1982; Л о к о т к о А.И. Белорусское народное зодчество: Середина XIX–XX в. Мн., 1991; С е р г а ч е в С.А. Белорусское народное зодчество. Мн., 1992.

***Віктар Цітоў.***

### Мэбля



Адзін з пакояў палаца ў Верках. Канец 18 ст.

У ВКЛ мэбля палацаў, замкаў, багатых сядзіб 14–16 ст. спалучала мясц. традыцыі і зах.-еўрап. канструкцыйныя і мастацкія дасягненні, вызначалася масіўнасцю, трываласцю, прастатой прысадзістых форм. У аздабленні сталоў, крэслаў, ложкаў былі пашыраны таніроўка ў цёмна-карычневы колер у спалучэнні з паліроўкай, а таксама нізкарэльефная разьба геаметрычнага і расліннага характару, фігурнае прафіляванне краёў. Разнастайнасцю тыпаў і форм вызначаліся скрыні для захоўвання каштоўнай маёмасці, а таксама сядзення, спання, выкарыстання ў якасці стала; найб. пашыраны від аздаблення іх – фігурная метал. акоўка. Пад уплывам рэнесансу скрыні ператвараюцца ў шафы, у якіх адкіднoе века саступіла месца 2 дзверцам. Сталы набываюць фігурныя Х- ці Т-падобныя апоры (хоць па-ранейшаму пераважалі масіўныя рамныя канструкцыі на 4 ножках, злучаных унізе пеpакладзінамі), крэслы – высокія прамыя спінкі і падлакотнікі. Поруч з крэсламі на 4 ножках бытавала больш стараж. іх канструкцыя: дошка-сядзенне мацавалася на 2 нахільныя дошкі-апоры; магла быць і спінка з дошкамі. У 17–18 ст. пад уплывам барока мэбля набыла больш вытанчаныя формы і разнастайны дэкор. Яе аздаблялі высокарэльефнай і ажурнай разьбой расліннага характару, размалёўкай, абіўкай каштоўнымі тканінамі, скурай з цісненнем і інш. Крэслы набываюць мяккія сядзенні і спінкі, абабітыя скурай ці аксамітам. У гарадах працавалі цэхі майстроў-мэбельшчыкаў, нярэдка вузкай спецыялізацыі – скрыннікі, столечнікі. Яны актыўна засвойвалі і перапрацоўвалі на аснове мясц. традыцый лепшыя дасягненні зах.-еўрап. рамяства і ў сваю чаргу дзяліліся імі з суседзямі. У 2-й пал. 17 ст. бел. разьбяры і майстры-мэбельшчыкі Д.Паўлаў, П.Тарасаў, І.Дракула, К.Міхайлаў і інш. працавалі ў Маскоўскай дзяржаве, дзе выраблялі для палацаў і храмаў шафы, крэслы, сталы, куфэркі, аздобленыя разьбой, размалёўкай, абіўкай аксамітам, акоўкай. Пад уплывам класіцызму формы і дэкор мэблі сталі больш спакойнымі і ўраўнаважанымі. Шырока ўжывалася тачэнне, залачэнне, абіўка тканінамі, метал. літыя накладкі ў выглядзе маскаронаў, звярыных лап і інш.; прымянялася таксама інкрустацыя каштоўнымі матэрыяламі, інтарсія з розных парод дрэва. Мэбля набыла меншыя памеры і больш лёгкія формы. Атрымліваюць пашырэнне невял. мяккія крэслы і табурэты; акрамя звычайных ужываюцца прысценныя і куткавыя столікі, на якія ставілі вазы, падсвечнікі, гадзіннікі. Масіўныя барочныя шафы саступаюць месца куткавым шафкам, сакрэтнікам, буфетам. У канцы 18 ст. з'яўляецца садова-паркавая чыгунная мэбля (лаўкі, столікі) работы мясц. чыгуналіцейных заводаў, аздобленая ажурным перапляценнем раслінных форм.



Крэсла пач. 17 ст. з Гародні.

Мэбля небагатых сядзіб і гар. жылля мела больш простыя формы і дэкор. Вырабленая з мясц. парод дрэва (дуб, хвоя, ліпа), яна нярэдка афарбоўвалася ў адзін колер (звычайна зялёны) і ўключала прысценныя шырокія лавы, сталы, крэслы, шафы, ложкі, скрыні, якія выкарыстоўваліся таксама для сядзення і спання. Лавы як старажытнейшы элемент усх.-слав. жылля бытавалі нават у багатых магнацкіх інтэр'ерах. Папулярнымі былі і шлябаны – спалучэнне скрыні і лавы з падлакотнікамі і спінкай.

Сял. жыллё мэблі як рухомых прадметаў абсталявання амаль не мела. Унутр. абсталяванне жылля (лавы, паліцы, палаці, палок) стваралася разам з хатаю і ўтварала з яе інтэр'ерам адзінае цэлае. Уласна мэблю складалі стол (звычайна на козлах), пераносная лаўка-ўслон, зэдлік, бандарныя ці выдзеўбаныя ёмістасці для захоўвання адзення, у залежнасці ад патрэбы – калыска. Нярэдка для вырабу мэблі (услонаў, зэдлікаў) выкарыстоўвалі ствалы дрэў з каранямі і адгалінаваннямі, якія ўтваралі ножкі. Рабілі такую мэблю звычайна самі гаспадары ці мясц. майстры-сталяры.

***Яўген Сахута.***

## грашовае абарачэнне

Для ВКЛ вылучаюцца наступныя перыяды грашовага абарачэння: *злітка плацежнага* (13 ст., пачынаецца з 2-й пал. 11 ст.), пражскага гроша (14–15 ст.), нац. паўнавартаснай манеты (канец 15–сярэдзіна 17 ст.), крэдытнай манеты (2-я пал. 17–канец 18 ст.), папяровых грошай (*скарбовых білетаў*; канец 18 ст.). Крыніцамі даследаванняў грашовага абарачэння з'яўляюцца скарбы і адзінкавыя знаходкі манет, афіцыйныя пастановы і дакументы з рэальнага гаспадарчага жыцця.



Злiткі літоўскага тыпу з Вішчынскага грашова-рэчавага скарба канца 12 – пач. 13 ст. Знойдзены ў 1979.

Выпуск айчыннай манеты (дагэтуль былі вядомы толькі зліткі літоўскага, кіеўскага і наўгародскага тыпаў) у ВКЛ пачаўся ў 1380-я г. ў выглядзе дробных манет – *пенязяў* або *дэнарыяў* (фактычна фракцый пашыранага ў той час пражскага гроша). У канцы 14–пач.18 ст. было выпушчана каля 300 асн. тыпаў манет і 1200 іх варыянтаў у золаце, серабры, медзі. На тэр. ВКЛ абарачалася і вял. колькасць замежных манет – Багеміі (Чэхіі), італьянскіх дзяржаў, Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў, Свяшчэннай Рымскай імперыі, шматлікіх ням. княстваў і гарадоў, Прусіі, Рас. дзяржавы, правінцый Галандыі і інш.; найб. пашыранымі былі манеты Польскага каралеўства як бліжэйшага суседа ВКЛ. Пасля Люблінскай уніі 1569 яны сталі айчыннымі, а ў 1580 адбылася уніфікацыя манет у абедзвюх частках Рэчы Паспалітай – Польскім каралеўстве і ВКЛ. З гэтага часу манеты былі адной стапы (колькасць выбітых з адзінкі вагі манет аднаго наміналу) і з агульнымі іканаграфічнымі рысамі. Аднак і праз чвэрць стагоддзя ў афіцыйных дакументах ВКЛ яшчэ сустракаўся лік на копы–грошы–пенязі, які быў уласцівы толькі ВКЛ і не стасаваўся да новых манет. Войны са Швецыяй і Маскоўскай дзяржавай у сярэдзіне 17 ст. выклікалі пэўны сепаратызм у ВКЛ, які адбіўся на афармленні манет, – яны чаканіліся ў гэты час толькі з гербам ВКЛ. Пазней цэнтрабежныя тэндэнцыі былі пераадолены, і да 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) манеты выпускаліся з 2 дзярж. гербамі – «Пагоняй» і Белым арлом, да якіх традыцыйна дадаваўся родавы герб манарха. Да сярэдзіны 16 ст. манеты ВКЛ не неслі партрэтных выяў, пазней амаль усе манеты вял. памераў былі з выявай манарха (часам і дробныя манеты, калі гэта дазвалялі тэхналагічныя параметры). Стылістычна партрэты адпавядалі пануючым у Еўропе тагачасным мастацкім стылям. Змена караля адбівалася і на непартрэтных манетах – у легендзе пазначалася яго асоба, што выконвала таксама ідэалагічныя функцыі. У час барацьбы за унію літ. трояк 1565 быў ужыты «партыяй улады» ў якасці лістоўкі супраць праціўнікаў уніі (яго легенда перасцерагала незадаволеных праектам аб'яднання дзяржаў).

Сярэбраныя дэнарыі ВКЛ з выявамі гярбоў «Калюмны» і «Пагоня». Канец 14 – пач. 15 ст.





Гальшанскі манетны скарб пач.16 ст. з пражскіх грошаў, дэнарыяў і паўгрошаў ВКЛ. Знойдзены ў 1976.

Звестак пра размяшчэнне манетных двароў, на якіх біліся першыя манеты ВКЛ канца 14–15 ст., няма. Гал. манетным дваром дзяржавы з канца 15 ст. і да 1667 быў *Віленскі манетны двор* (так прынята называць шэраг двароў, дзейнасць якіх часам не была звязана пераемнасцю персаналу, памяшкання ці абсталявання), які знаходзіўся з пач. 15 ст. на тэр. Віленскага Ніжняга замка. У час панавання Жыгімонта Аўгуста [1548–72] Віленскі манетны двор быў агульнадзярж. манетным дваром Рэчы Паспалітай. У сярэдзіне 16 ст. нядоўгі час у ВКЛ дзейнічаў *Тыкоцінскі манетны двор*. У 1579 двайны дэнарый ВКЛ быў выбіты на Мітаўскам манетным двары леннага герцагства Курляндыя. У сярэдзіне 17 ст. ў ВКЛ існавалі часовыя *Берасцейскі манетны двор* і *Ковенскі манетны двор*, на тэр. Кароны знаходзіліся яшчэ 3 часовыя прадпрыемствы ВКЛ па выпуску медных солідаў Яна II Казіміра [1648–68]: *Уяздаўскі манетны двор, Аліўскі манетны двор, Мальбаркскі манетны двор*. У пач. 18 ст. было прынята рашэнне па выпуску сярэбранага шасціграшовіка ў Гародні, але праект з-за падзей Паўн. вайны 1700–21 быў рэалізаваны на Кадашаўскім (Адміралцейскім) манетным двары ў Маскве. У 2-й пал. 18 ст. планавалася адкрыць *Гарадзенскі манетны двор* для вырабу медных манет Станіслава Аўгуста Панятоўскага [1764–95], але праект не быў рэалізаваны.

У ВКЛ суіснавалі 2 трохфракцыйныя сістэмы ліку грошай – на *рублі* (2-я пал. 15–16 ст.) і на *копы* (2-я пал. 15–пач. 17 ст.). Рубель змяшчаў 100 *грошаў* літоўскіх, капа – 60 грошаў літоўскіх, у грошы было 10 пенязяў. З канца 16 ст. ў ВКЛ пашыраецца трохфракцыйная сістэма ліку на *злотыя*. У злотым лічылася 30 грошаў польскіх, у грошы – 3 *шэлегі* (у апошняй трэці 17 ст.–пач. 18 ст. – 6, пазней 8 медных шэлегаў па рыначным курсе, што было афіцыйна пацверджана курсам рэдукцый 1676 і 1717). У апошняй чвэрці 17 ст. з'явіўся лік на *талеры–тынфы*–грошы. Паралельнае выкарыстанне ліку на серабро і медзь афіцыйна зафіксавана ў 1766, калі вартасць асн. адзінкі – злотага – устаноўлена ў 4 сярэбраныя грошы або 30 медных. Пры выкарыстанні прывычных зборных адзінак ліку і сістэм ліку маглі атрымлівацца розныя рэальныя сумы грошай, што робіць цяжкім параўнанне. Усё залежала ад «напаўнення» гроша або капы. Розніца адзінак пазначалася. Напр., «літоўскі злоты» ў 1-й пал. 17 ст. змяшчаў 35




Сярэбраны паўгрош ВКЛ Жыгімонта I Старога. Віленскі манетны двор. 1511.

грошаў польскіх. У залежнасці ад прынятага стандарту магла адрозніваецца капа: замест 60 грошаў маглі выступаць 75 грошаў, а з улікам інфляцыі часам і болей. У канцы 18 ст. ўжываўся прынцыпова новы, камбінаваны, трохфракцыйны лік на цвёрдыя грошы ў *чырвоных злотых*. У чырвоным злотым лічылася 18 злотых, у злотым – 30 грошаў. У канцы 18–пач. 19 ст. на землях ВКЛ, якія былі далучаны да Рас. імперыі, ужываўся падобны камбінаваны трохфракцыйны лік грашовых сум на цвёрдыя грошы ў рас. рублях серабром. У рублі лічылася 6 і $^{2}/_{3}$ злотага (злоты па 15 капеек серабром), у злотым – 30 грошаў меддзю (грош па $^{1}/_{2}$ капейкі серабром), ці на рубель серабром прыпадала 200 грошаў. У злотых і грошах лічыліся медныя манеты, пералік на цвёрдую манету адбываўся па асігнацыйным курсе. Сістэмы грашовага ліку ВКЛ у пэўнай ступені былі актуальнымі да сярэдзіны 19 ст., паколькі працягваў дзейнічаць Статут ВКЛ 1588 і ў абарачэнні яшчэ знаходзіліся старыя манеты Рэчы Паспалітай і традыцыйна прынятыя замежныя манеты.

Першыя манеты ВКЛ не мелі пазначэння наміналу, таму ўсе яны ўмоўна называюцца дэнарыямі. Мяркуючы па іх масе, сярод іх былі ўласна дэнарыі-пенязі і наміналы, большыя за дэнарый. У час панавання Аляксандра [1492–1506] і Жыгімонта I Старога [1506–48] біліся дробныя манеты – дэнарыі, паўгрошы, грошы. Пры Жыгімонце II Аўгусце [1548–72] наменклатура манет значна пашырылася – біліся *аболы*, дэнарыі, двайныя дэнарыі, *паўгрошы*, грошы, двайныя грошы, *траякі*, чатырохграшовікі, *шастакі*, чвэрцькопкі, паўкопкі, *дукаты*, двайныя і трайныя дукаты, дзесяцідукатавікі (*партугалы*), уводзіліся ў абарачэнне контрмаркіраваныя іспанскія паўталеры і талеры (т.зв. «спадчына каралевы Боны»). У час панавання Стафана Баторыя [1576–86] у ВКЛ выпускаліся дэнарыі, двайныя дэнарыі, соліды, грошы, траякі, шастакі, талеры, паўтараталеры, двайныя талеры, дукаты, дзесяцідукатавікі. Пры Жыгімонце III Вазе [1587–1632] – літоўскія двайныя дэнарыі, соліды, грошы, *паўтаракі*, траякі, дукаты, трайныя дукаты, пяці- і дзесяцідукатавікі. У часы панавання Уладзіслава IV Вазы [1632–48] манеты ВКЛ не выпускаліся (адзінае выключэнне – партугал 1639). Пры Яне II Казіміру [1648–68] выраб манет у ВКЛ аднавіўся: біліся соліды, грошы, паўтаракі, траякі, шастакі, *орты*, талеры, паўдукаты, дукаты. Апошняя манета ВКЛ – шастак 1706–07, т.зв. «гарадзенскі», зроблены тэхнікай вальцоўкі, відаць, у Маскве. Не ўсе з пералічаных манет былі масавымі, у першую чаргу гэта тычыцца буйных сярэбраных манет (чвэрцькопкі, паўкопкі, талеры) і залатых манет, асабліва наміналаў, большых за дукат. Пісьмовыя крыніцы



ſzy dobrze á ſtátecznie ſprobowáć/ táka o nich wiadomość wſzem y káżdemu w Koronie y Páńſtwách naſzych czynimy. Naprzod.

1 TALER/ pod textem SANCTVS VICTOR MART. Z drugiey ſtrony/ Moneta noua Argentea Batenborg. Szácunek iego groſzy Polſkich trzydzieśći / pieniedzy máłych Polſkich czternaśćie.

2 Pod textem Sanctus Victoris Martyr: Z drugiey ſtrony/ Argentum nouum Batenb. 30. ſtuffer. Szácunek iego groſzy trzydzieśći/ pieniedzy máłych Polſkich trzy.

3 Pod textem Sanctus Victor Martyr: Z drugiey ſtrony/ Ferdinandus Romano. Imp. Semp. Aug. Szácunek iego groſzy trzydzieśći / pieniedzy máłych Polſkich dziewieć.

4 Pod textem Sanctus Victor Martyr: Z drugiey ſtrony/ Nouus D. Batenb. triginta Stufferos. Szácunek iego groſzy trzydzieśći/ pieniedzy máłych Polſkich dziewieć.

5 Pod textem Dena nouus Batenb: triginta Stuferos Z drugiey ſtrony/ Domine conſerua nos in pace A: 1564. Szácunek iego groſzy trzydzieśći / pieniedzy máłych Polſkich śiedm.

6 Pod textem Sanctus Martinus Patronus Verdenſis, Z drugiey ſtrony Philippus A: Nommen. CO.D. HORN. Szácunek iego groſzy trzydzieśći/ pieniedzy máłych Polſkich ośm.

7 Pod textem Sanctus Martinus Patronus VVertensis: Z drugiey ſtrony/ Phil: Bar: D. Momm: Co: Horn. D. D. Vert: Szácunek iego groſzy trzydzieśći/ pieniedzy máłych Polſkich ośm.

8 Pod textem Moneta noua Argen: Recheime Mens: Z drugiey ſtrony/ Sanctus Petrus Patronus A. 1563. Szácunek iego groſzy trzydzieśći y ieden/ pieniedzy máłych Polſkich dwanaśćie.

9 Pod textem Mon: noua Argent Recheimens: Z drugiey ſtrony/ Ferdinand. Romano. Imp: Semp. Auguſtus. Szácunek iego groſzy trzydzieśći y ieden/ pieniedzy máłych Polſkich czternaśćie.

10 Pod textem Sancta Maria Thorenſis Eccleſie: Z drugiey ſtrony/ Denarius nouus triginta ſtufferorum. Szácunek iego/ groſzy trzydzieśći/ pieniedzy máłych Polſkich ſześnaśćie.

11 Bez textu z wyobrażeniem. Szácunek iego/ groſzy dwádzieśćia y dziewieć/ y pol pieniedzá máłego Polſkiego.

12 Pod textem Georgius ab Auſtria Dei grat Z drugiey ſtrony/ EPS Leod. Dux Bull: Coloſs: Szácunek iego/ groſzy trzydzieśći y ieden/ pieniedzy máłych Polſkich cztery.

Pod

Вальвацыйная табліца з «Універсала караля Жыгімонта Аўгуста ад 14 чэрвеня 1567 года».

зафіксавалі назвы айчынных і замежных манет аспра, *асмак*, грош, дэнар, дзесятнік, дунец, злоткавы, *карабельнік, крыжак, лявок*, орлік, орт, пенязь, паўтарак, патройны, *пятак*, талер (таляр, тарэль), тынф, філіпок, *фларэн*, чырвоны, *чэх*, шаг, шастак, шэлег і інш. Большая частка з іх паходзіць ад наміналаў манет (грош, дэнар, злоткавы, орт, пенязь, паўтарак, патройны, таляр, фларэн, шастак). Ад курсу манет утварыліся назвы асмак (у 2-й пал. 16 ст. грош польскай стапы ў 8 літ. пенязяў, у 2-й пал. 17 ст. грош у 8 медных шэлегаў), дзесятнік (шасціграшовік коштам 10 грошаў у канцы 17 ст.), пятак (паўгрош літоўскі ў 5 пенязяў у канцы 16 ст., стары траяк у 5 грошаў у канцы 17 ст.). Некат. манеты атрымалі назвы па характэрных выявах (карабельнік, крыжак, лявок, орлік, філіпок) або па прыкметах матэрыялу (чырвоны злоты, шэлег грубы, талер біты). Ад прозвішча арандатара манетных двароў Рэчы Паспалітай Андрэя Тынфа паходзіць назва орт тынфовы, а пазней тынф, якая ў 18 ст. ператварылася ў афіц. назву наміналу і была запазычана суседзямі (Прусія, Расія). Пэўнай спецыфікай у назвах грошай вызначалася гар. яўрэйскае насельніцтва, якое канцэнтравалася ў зах. частцы ВКЛ. Адзін з самых характэрных яўрэйскіх тэрмінаў 17 ст. – закука серабра, якая адпавядала суме часам менш, часам больш за 10 злотых. Відаць, гэтым тэрмінам называліся сярэбраныя злiткі або набор манет з масай каля 200 г. Як адзінка вылічэння кагальнага падатку называецца пенік.




10 дукатаў (партугал) Стафана Баторыя. 1580. Віленскі манетны двор.

Адначасовае абарачэнне разнастайных манет розных часоў і дзяржаў аднаго наміналу, але рознай вартасці прымушала да іх ацэнкі – вальвацыі. Афіц. вальвацыі (напр., Жыгімонта Аўгуста 1567) не паспявалі за зменамі на рынку, і на ім маглі існаваць свае курсы, якія адрозніваліся па рэгіёнах. У канцы 15–18 ст. купцы ўжывалі шматлікія замежныя і айчынныя камерцыйныя вальвацыйныя табліцы. Насельніцтва карысталася ўмоўнымі агульнапрынятымі курсамі. Напр., 2 польскія паўгрошы 2-й пал. 16 ст., якія рэальна сталі за лікавым асмаком, у параўнанні з 8 літоўскімі пенязямі змяшчалі значна больш серабра (прыблізна адпавядалі 11 пенязям), а зафіксаваны ў назве «асмак» курс адлюстроўваў суадносіны паміж літ. грошам і 2 польскімі паўгрошамі. Часам недахоп пэўных катэгорый манет падвышаў іх кошт, і ўтвараўся лаж на гэтыя манеты (напр., на соліды ў 2-й чвэрці 17 ст.). Часам рынкавы курс хаваўся нібыта за асобным грашовым лікам. Так, лік на «рускі злоты» адрозніваўся тым, што тынф у ім ацэньваўся ў 45, а не ў 38 грошаў, як лічылася афіцыйна, шастак у 15, а не ў 12 і $^2/_3$ гроша. Дзяржава вяла барацьбу са «шкоднымі» катэгорыямі замежных манет, але яна не была эфектыўнай, напр., некалькі дзесяцігоддзяў адклікаліся з абарачэння свідніцкія паўгрошы ў 2-й чвэрці 16 ст. У сярэдзіне 17 ст. такі ж лёс напаткаў «фальшывыя валошскія шэлегі». Значныя рэдукцыі курсаў айчынных манет з-за працэсаў абясцэньвання пэўных наміналаў праводзіліся ў 1676 і 1717 (кошт базавага меднага соліда выпуску 1659–66 паніжаўся да 50% і 37,5% адпаведна). У выніку рэдукцыі 1717 была «закладзена» ва ўмоўны медны грош колькасць серабра, якая захавалася да канца 18 ст. Грашовая рэформа 1767 Станіслава Аўгуста Панятоўскага з адкліканнем з абарачэння старых манет вызначыла і іх афіцыйны абменны кошт, які мяняўся на працягу 6 месяцаў (ён быў нявыгадным для насельніцтва). Апошняе вызначэнне кошту літ. «манеты» адбылося ў 1831, калі рас. ўрад для пераліку грашовых штрафаў па Статуце 1588




Дукат («злоты чырвоны») Аб'яднаных правінцый (Галандская рэспубліка, г. Кампен). 1650 Знойдзены ў Мсціславе ў 1987.





Пракламацыйны сярэбраны трохграшовік Жыгімонта II Аўгуста 1565. Біты з біблейскай цытатай як пагроза-напамінанне літвінам – праціўнікам аб'яднання Польскага каралеўства і ВКЛ.

вызначыў курс у 2 капейкі меддзю за грош Статута, што было актуальна да 1840 для жыхароў Мінскай, Гродзенскай і Віленскай губ.

Большая частка насельніцтва ВКЛ жыла ў сельскай мясцовасці, таму для яе адзіным спосабам зберажэння грошай было захаванне іх у зямлі, звычайна ў межах жылой або гаспадарчай пабудовы. Сезоннасць збыту прадукцыі і, адпаведна, плацяжоў выклікала патрэбу ў даволі значнай грашовай масе. Большасць насельніцтва краіны задавальнялася хуткасцю абароту асабістых грашовых сродкаў паўгода–год (пры абавязковых плацяжах рэнты 1–2 разы на год), а доўгатэрміновыя рэзервовыя зберажэнні яшчэ больш памяншалі сярэднюю хуткасць цыркуляцыі манет. Гар. жыхары таксама былі абмежаваны ў выбары спосабу захоўвання грошай – або ў зямлі у межах пабудоў на ўласным участку, або ў памяшканні (печ, сцены і г.д.). Гандлёвая частка мяшчанства магла лішнія грашовыя сродкі аддаваць у пазыку, тады захоўваўся толькі вэксаль (абліг, квіт), які мог пры неабходнасці ўключацца ў працэс абмену тавару на грошы спосабам перадачы або запісу і выконваць грашовую функцыю. Папяровыя вэксалі патрабавалі захоўвання ва ўмовах сухога паветра, таму іх трымалі ў скрынях у асабістых або грамадскіх памяшканнях. Гар. вярхі і шляхта маглі перадаваць грошы на захоўванне ў бяспечнае месца (ратушу, манастыр) або трымаць у спецыяльна пабудаванай скарбніцы.

*Літ.*: Gumowski M. Podręcznik numizmatyki polskiej. Kraków, 1914; Яго ж. Mennica Wileńska w XVI i XVII wieku. Warszawa, 1921; Karazija P. 1930 m. Vilniaus lobis. Vilnius, 1932; Яго ж. Aluonos Šklėriu ir Krūminių monetu lobiai // Vytauto Didžiojo Kultūros muziejaus metraštis. Kaunas, 1941; Karys J. Senovės lietuvių pinigai: Istorija ir numizmatika. Bridgeport, Connecticut, 1959; Рябцевич В.Н. Монетные клады XVII и первой четверти XVIII в. на территории Чернигово-Северской земли и восточной Белоруссии // Нумизматика и сфрагистика. Киев, 1963. Вып. 1; Яго ж. К вопросу о денежном обращении западнорусских земель в XIV–XV столетиях // Там жа. 1965. Вып. 2; Яго ж. Денежное обращение и клады на территории Чернигово-Северской земли и восточной Белоруссии в XVI в. // Там жа. 1968. Вып. 3; Яго ж. Нумизматика Беларуси. Мн., 1995; Яго ж. Российско-«польские» монетные эмиссии эпохи Петра I. Тольятти, 1995; Даунене З. Названия денег и денежных единиц в белорусской деловой письменности XV–начала XVII вв. // Lietuvos TSR aukštųjų mokyklų mokslo darbai. Kalbotyra. Vilnius, 1967. T. 15; Karys J. Numizmatika. Putnam, Connecticut, 1970; Janušonis S. 1660–1661 m. lietuviški šilingai // Vilniaus V.Kapsuko universitetas. Mokslinės bibliotekos metraštis. 1972. Vilnius, 1973; Aleksiejūnas V. Pirmosios lietuviškos kaltinės monetos // Archeologinės numizmatinės medžiagos komplektavimas ir konservimas. Vilnius, 1983; Michelbertas M. Lietuvos numizmatikos įvadas. Vilnius, 1989; Kolobowa J.N. «Ruski złoty» w finansowej terminologii wschodniej Białorusi w drugiej połowie XVIII wieku // Prace i materiały Muzeum archeologicznego i etnograficznego w Łodzi. Seria numizmatyczna i konserwatorska. 1989. № 6; Ivanauskas E., Balčius M. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės lydiniai ir monetos nuo 1387 iki 1495 metų. Vilnius, 1994; Ivanauskas E. Lietuvos pinigų lobiai. Paslėpti 1390–1865 metais. Vilnius, 1995; Сінчук І.І. Скарб медных манет XVII ст. з вёскі Данілавічы Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1995. № 2; Яго ж. Дэнарыі Вялікага княства Літоўскага з каменных магільнікаў Вензаўшчына і Куклі // Там жа. № 3; Яго ж. «Шеляжные» монетные дворы ВКЛ и медные солиды Яна Казимира в кладах // Mennice między Bałtykiem a Morzem Czarnym – wspólnota dziejów: Supraśl 10–12.IX.1998. Materiały z III Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 1998; Космылев В.С. К вопросу о денежной терминологии восточной Белоруссии в XVIII веке // Białoruś, Litwa, Polska, Ukraina: Wspólne dzieje pieniądza. Supraśl 20–22.X.1994. Materiały z I Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 1996; Ivanauskas E., Douchis R.J. Coins of Lithuania 1386–1707. Vilnius; Columbia, 1999; Грималаускайте Д., Синчук И. «Сатирический» трехгрошевик Сигизмунда Августа – монета чрезвычайных обстоятельств? // Pieniądz pamiątkowy i okolicznościowy – wspólnota dziejów – Białoruś–Litwa–Łotwa-Polska–Ukraina: Supraśl 7–9.IX.2000. Materiały z IV Międzynarodowej Konferencji Numizmatycznej. Warszawa, 2000; Sintchouk I., Zaitceva O. Stray coin-finds to the 16–20 century (on example of some Belarus sites) // XII. Internationaler Numismatischer Kongress Berlin 1997: Akten–Proceedings–Actes. Berlin, 2000. T. 2.

***Іван Сінчук.***



Скарбонкі для грошай. 16–17 ст.



## войска

Войска ВКЛ складалася з вайсковых фарміраванняў усіх зямель дзяржавы. Станаўленне вайсковай арганізацыі ВКЛ адбывалася ў некалькі этапаў. Да канца 14 ст. акрамя дружын з літ. і слав. зямель дзяржавы, шырока выкарыстоўвалася ўсеагульнае нар. апалчэнне – *пагоня,* якая была найб. архаічнай формай вайсковай мабілізацыі. Як сведчыць прывілей Ягайлы 1387, у пагоні, у выпадку ўварвання непрыяцеля ў межы дзяржавы, прымала ўдзел усё мужчынскае насельніцтва, здольнае насіць зброю. Адначасова прывілей упамінае прафесійных дружыннікаў (armigeri). У далейшым яны аформіліся ў саслоўе рыцарства, якое ў 15–16 ст. стала асн. ваеннай сілай ВКЛ. Гал. формай вайсковай мабілізацыі ў гэты час становіцца феад. апалчэнне (*паспалітае рушэнне,* expeditio generales), куды землеўладальнікі выстаўлялі ўзброеных воінаў. Да 16 ст. не існавала сталай нормы выстаўляемага атрада ў залежнасці ад велічыні зямельных уладанняў і колькасці сялян. Нюансы службы агаворваліся персанальнымі дамовамі паміж сеньёрам і васалам. Да сярэдзіны 15 ст. асн. катэгорыямі вояроў у паспалітым рушэнні былі конныя капійнікі і стральцы (лучнікі і арбалетчыкі). З канца 14 ст. шырока выкарыстоўваліся татары. Найдрабнейшай арганізацыйна-тактычнай адзінкай войска было *«кап'ё»,* вядомае з 16 ст. як почат. У яго ўваходзілі (у ідэале) 1 капійнік і 2 стральцы. «Коп'і» злучаліся ў *харугвы,* якія арганізоўваліся паводле тэр. прынцыпу ці выводзіліся буйнейшымі феадаламі. Колькасны склад харугваў залежаў ад мабілізацыйных магчымасцей рэгіёнаў, хоць здараліся выпадкі яго ўнармавання. Так, напярэдадні грунвальдскай выправы Вітаўт загадаў выставіць з кожнай тэр. адзінкі ў Жамойці па 300 чал. У час бою харугвы дзейнічалі звужанымі наперад калонамі – клінамі. Наперадзе калоны размяшчаліся капійнікі, за імі – стральцы, якія стралялі навесам паверх галоў пярэдніх ліній. З сярэдзіны 15 ст. з-за большых патрабаванняў да засцерагальнага ўзбраення з'явілася новая градацыя воінаў: даспешныя (капійнікі), панцырныя (стральцы) і шчытныя. З пач. 16 ст. нормы вайско-

Фрагмент карціны «Бітва пад Оршай». Невядомы мастак імкнуўся да дакладнага адлюстравання хода бітвы, убораў і ўзбраення.





Кавалерыя Рэчы Паспалітай. Малюнак пач. 17 ст.



Кіраса. 2-я пал. 17 ст.

вай службы рэгламентаваліся агульнадзярж. актамі (пастанова Навагародскага сойма 1502, Статуты ВКЛ 1529, 1566, 1588 і інш.). Адначасова ішло аблягчэнне *кавалерыі* за кошт змяншэння значэння цяжкаўзброеных капійнікаў. Статут ВКЛ 1529 патрабаваў выстаўляць аднаго паўнавартаснага вершніка (з панцырам, прылбіцай, кордам, павезай і кап'ём) ад 8 сял. службаў. У рэальнасці патрабавалі толькі мінімум засцерагальнага рыштунку. У залежнасці ад наступальнага ўзбраення вылучаліся *гусары*, узброеныя кап'ём і шчытом, *казакі* (лук, часам у спалучэнні з рагацінай), кашубы (рагаціна ці ошчап) і бруншвікі (агнястрэльная зброя). Паны, якія не валодалі 8 службамі, неслі службу паводле сваёй магчымасці, што прыводзіла да надзвычайнай стракатасці ўзбраення войска. Паводле пастаноў соймаў 1563 і 1567, у склад паспалітага рушэння ўводзілася *пяхота* – на 2 коннікаў па 1 драбу з ручніцай і мячом ці з рагацінай і сякерай. Зборам ваяводскіх і павятовых харугваў займаліся *харужыя*, *кашталяны* і *маршалкі*. Пасля ўліку (гл. *Попісы войска*) войска пераходзіла пад уладу *гетманаў* (вядомы з 15 ст.). Паспалітае рушэнне праіснавала да канца 18 ст. Аднак ужо ў канцы 15–пач. 16 ст. яно пачало траціць свае баявыя якасці. Гэта было звязана з ростам зацікаўленасці шляхты ў вядзенні ўласнай гаспадаркі і недастатковым пакараннем за ўхіленне ад вайсковай службы. Так, у сярэдзіне 16 ст. мабілізацыйныя магчымасці дзяржавы дазвалялі выставіць 70-тысячнае войска, у рэальнасці ж яно не дасягала і 50 тыс. Паступова павялічвалася роля наёмнага войска, якое да канца 16 ст. стала асн. ваеннай сілай. Першапачаткова жаўнераў наймалі за мяжой, пераважна ў дзяржавах ягелонскай кааліцыі – у Польшчы, Венгрыі і Чэхіі, а ў далейшым – і з ураджэнцаў ВКЛ. Наёмнікі арганізоўваліся ў *роты* на чале з *ротмістрамі*. Конныя роты падзяляліся на почты, якія ўзначальваліся *тава-*




Атрад лёгкай кавалерыі Радзівілаў. Мастак А.Басан. 17 ст.

*рышамі*, пешыя – на дзесяткі, якімі камандавалі дзесятнікі. Аснову пешых рот складалі стральцы, забяспечаныя арбалетамі (да пач. 16 ст.) ці агнястрэльнай зброяй. Наперадзе стральцоў размяшчаліся павезнікі з вял. шчытамі ці капійнікі, забяспечаныя пласцінавымі даспехамі (часам тыя і другія). Ужо ў 16 ст. наёмнікі выкарыстоўвалі разнастайныя функцыі – змагаліся ў адкрытым полі, неслі гарнізонную службу, прыкрывалі адбудову замкаў, выконвалі інжынерна-сапёрныя работы, паліцэйскія функцыі. Важнае месца займалі *пушкары*, якія абслугоўвалі *артылерыю*, вядомую ў ВКЛ з 1382, выраблялі порах, рамантавалі зброю.



Бітва пад Кірхгольмам. 1605. Мастак Генрык Пілацы.

У канцы 16–1-й пал. 17 ст. праведзены вайсковыя рэформы, пачатыя ў часы Стафана Баторыя і завершаныя пры Уладзіславе IV. Яны ўводзілі дакладную рэгламентацыю асобных родаў войск і іх узбраення. Кавалерыя падзялялася на цяжкую, сярэднюю і лёгкую. Цяжкая кавалерыя (гусары, рэйтары і аркебузеры) мела засцерагальнае ўзбраенне ў выглядзе паўдаспеха або кірасы і шлема. Асн. наступальнай зброяй гусараў было кап'ё, рэйтараў і аркебузераў – пісталеты ці аркебуза. Сярэдняя кавалерыя (панцырныя, або *пяцігорцы*) мела круглыя шчыты і кальчужныя панцыры ў камплекцы з міскападобнымі шлемамі-місюркамі; наступальнае ўзбраенне складалася з шаблі і пісталетаў або ручніцы, часам рагаціны і лука. Лёгкія вершнікі (тыпу *лісоўчыкаў* і татараў) выкарыстоўвалі аналагічнае ўзбраенне, але не мелі засцерагальных сродкаў. Падобная структура кавалерыі захавалася да 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772), хоць у 18 ст. вершнікі ўжо пакрысе адмаўляліся ад засцерагальнага ўзбраення. Пры Стафане Баторыю на венгерскі ўзор была рэарганізавана і пяхота, якая адмовілася ад даспехаў і дрэўкавай зброі: драбы атрымалі шаблі, сякеркі, кнотавыя ручніцы з парахаўніцамі і лядункамі (гатовымі набоямі пораху), дзясятнікі – шаблі, сякеркі і кароткія коп'і (дарды). У 1578 уведзена выбранецкая пяхота (гл. *Выбранцы*), вербаваная пераважна з сялян і ўзброеная, як і астатнія драбы. Выкарыстоўвалася таксама замежная пяхота, пераважна нямецкая і венгерская. Уладзіслаў IV арганізаваў мясц. пяхоту нямецкага тыпу і драгунаў, якія спалучалі рысы кавалерыі і пяхоты. Значны ўплыў на рэформы ў гэты час адыграў вопыт імперскай арміі Валенштэйна перыяду Трыццацігадовай вайны. Да канца 17 ст. арганізацыя і ўзбраенне пяхоты змяніліся мала. Змены закранулі пераважна аддзелы

Войскі Рэчы Паспалітай пад Смаленскам у час вайны з Расіяй 1632–34. Фрагмент гравюры В.Гондыуса. 1636.











Мундзіры войска ВКЛ 1792–94: 1 – афіцэр пешай гвардыі; 2 – афіцэр пяхоты; 3 – афіцэр артылерыі; 4 – грэнадзёр пешай гвардыі. Малюнкі Ю.Герасімовіча.

нямецкага тыпу (адмова ў 2-й пал. 17 ст. ад даспехаў і шлемаў, скарачэнне пік, а пазней пераход да стрэльбаў з багінетамі). У 1-й пал. 17 ст. ў асобны корпус вылучылася артылерыя. Да 1652 войска ВКЛ падзялялася на т.зв. кварцянае, прызначанае для абароны ўсх. граніц, і суплементовае, якое збіралі толькі ў выпадку вайны. У далейшым гэты падзел быў адменены і ўводзілася адзінае кампутовае войска, памеры якога вызначаліся соймам. Важнае месца належала таксама недзяржаўным, найперш магнацкім войскам, а таксама ваяводскім і павятовым фарміраванням. Абавязкі па абароне гар. умацаванняў ускладаліся таксама на мяшчан. Рэформы канца 16–1-й пал. 17 ст. павысілі баяздольнасць арміі, вынікам чаго стала паспяховае завяршэнне Інфлянцкай вайны 1558–82, перамогі пад Кірхгольмам (1605), Клушынам (1610), Хацінам (1621) і інш. Аднак цяжкасці з фінансаваннем абмяжоўвалі колькасць войска, што негатыўна адбівалася на ходзе ваенных кампаній. На сойме 1717 колькасць войска ВКЛ увогуле была скарочана да 6100 чал. (2300 конніцы, 1500 драгунаў і 2300 пяхоты). Падаткі на ўтрыманне асобных аддзелаў войска ўскладаліся на канкрэтныя землі і ваяводствы, што прыводзіла да яшчэ больш нізкай рэальнай колькасці войска (у 1745 яно складала 4000 чал.). Абмяжоўвалася гетманская ўлада.

У час панавання дынастыі Вецінаў у пяхоце і драгунаў замацаваліся саксонскія ўплывы – адпаведнае абмундзіраванне, стрэльбы з багінетамі, арганізацыя па батальёнах. У часы Станіслава Аўгуста Панятоўскага былі ўтвораны *Вайсковая камісія Вялікага княства Літоўскага* (10.3.1765) і Вайсковы дэпартамент *Пастаяннай Рады* (6.11.1776). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) пачалася рэарганізацыя войска ВКЛ, якое падзялялася на 2 дывізіі. На аснове былых гусараў і панцырных створаны 2 брыгады нац. кавалерыі. З лёгкай конніцы створаны 5 палкоў пярэдняй стражы. Драгунскія рэгіменты замяняліся на пяхотныя. Рабіліся спробы стварэння корпуса артылерыі. Пры правядзенні рэформ улічваўся вопыт прускай арміі. На Чатырохгадовым сойме 1788–92 планавалася павялічыць армію ВКЛ да 33 тыс. чал. (10 650 кавалерыі, 20 330 пяхоты і 1661 артылерыйска-інжынерных войск), але з-за недахопу грошай для найму лічба войска была зменшана да 20 000 чал., уводзіўся рэкруцкі набор. У ходзе баявых дзеянняў 1792 удалося сабраць 18 500 жаўнераў. Гарадзенскі сойм 1793 прыняў рашэнне скараціць войска ВКЛ да 6500 чал. У апошні раз войска ВКЛ прымала ўдзел у баявых дзеяннях у час паўстання пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі, а пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) спыніла сваё існаванне.

*Літ.*: Nowak T., Wimmer J. Dzieje oręża polskiego do roku 1793. Warszawa, 1968; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. Warszawa, 1982; Грыгор'еў М. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. Мн., 1994; Сагановіч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI–XVII стст. Мн., 1994; Machynia M., Rakutis V., Srzednicki C. Oficerowie Rzeczypospolitej Obojga Narodów 1777–1794: Spisy. T. 2. Oficerowie wojska Wielkiego Księstwa Litewskiego, 1777–1794: Spisy. Sztab, kawaleria, artyleria, wojska inżynierskie i piechota. Kraków, 1999; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV–канца XVI ст. Мн., 2002; Яго ж. Арганізацыя найманых аддзелаў у Вялікім Княстве Літоўскім у XV-XVI стст. // Спадчына. 2002. № 4; Яго ж. Зброя Вялікага княства Літоўскага, 1385–1576. Мн., 2003.

***Юрась Бохан.***

# царква

У ВКЛ пераважала хрысціянскае веравучэнне (праваслаўнае, каталіцкае і пратэстанцкае з разгалінаваннямі, з 1596 і уніяцкае), існавалі іудзейскае і мусульманскае веравызнанні.

**Праваслаўная царква.** Хрысціянства ў яго ўсх. форме (з 1054 праваслаўе) уведзена на бел. землях у канцы 10 ст. як дзярж. рэлігія. Большасць даследчыкаў схіляецца да думкі, што заснаванне Полацкай правасл. епархіі – першай на тэр. Беларусі – адбылося ў 992. Гэта традыцыйна лічыцца пачаткам тут гісторыі правасл. царквы. У перыяд Кіеўскай Русі вызначыліся асн. сферы дзейнасці правасл. царквы, узнікла буйное царк. землеўладанне, сфарміравалася епархіяльная структура, з'явіліся манастыры. Полацкая, Тураўская правасл. епархіі і інш., у склад якіх у розныя гады ўваходзілі бел. землі, былі падпарадкаваны *Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі*. Апошняя ў царк.-кананічных адносінах падначальвалася Канстанцінопальскаму патрыярхату. Цэнтрамі хрысціянізацыі былі гарады. У сельскай мясцовасці поўная хрысціянізацыя адбылася к канцу 12–пач. 13 ст. (некат. даследчыкі адносяць канец гэтага працэсу да 2-й пал. 13 і нават да 14 ст.). У 1303 у Галіцка-Валынскім княстве створана *Галіцкая праваслаўная мітраполія* (існавала з перапынкамі да канца 14 ст.). З 1316 у ВКЛ узнікла незалежная ад Кіеўскай мітраполіі (з пач. 14 ст. яе цэнтр у Маскве) *Літоўская мітраполія*. Да сярэдзіны 15 ст. Канстанцінопальскі патрыярхат, які не жадаў канчатковага падзелу правасл. царквы ВКЛ і Вял. княства Маскоўскага, прызначаў мітрапалітаў у Навагародак нерэгулярна, нягледзячы на просьбы вял. князёў ВКЛ. Пасля смерці першага літ.-навагародскага мітрапаліта Феафіла (1330) новы мітрапаліт не быў пастаўлены, епархіі ў ВКЛ вярнуліся пад уладу мітрапаліта кіеўскага ў Маскве. У 1354 у ВКЛ прызначаны мітрапаліт Раман, якому падпарадкоўваліся 7 епархій на тэр. ВКЛ і галіцка-валынскіх землях: Турава-Пінская, Полацкая, Галіцкая, Уладзіміра-Валынская, Луцкая, Холмская, Перамышльская. Пасля смерці Рамана (1362) патрыярх канстанцінопальскі аднавіў адзінства мітраполіі Русі. У 1415 па ініцыятыве вял. князя Вітаўта Навагародскі сабор абвясціў незалежнасць правасл. царквы ВКЛ ад Кіеўскай мітраполіі ў Маскве і Канстанцінопальскага патрыярхата. Аднак у 1420 літ.-навагародскі мітрапаліт Грыгорый Цамблак, не атрымаўшы прызнання ў правасл. свеце, страціў пад-



Царква Дабравешчання ў Супраслі. 1-я пал. 16 ст.



Абраз «Маці Божая Адзігітрыя Смаленская» 16 ст.

трымку Вітаўта; кіраўніком правасл. царквы ў ВКЛ пасля яго смерці прызнаны кіеўскі мітрапаліт (у Маскве) Фоцій. У 1458 правасл. царква ў ВКЛ і Вял. княстве Маскоўскім канчаткова падзяліліся на 2 незалежныя адна ад адной мітраполіі: Кіеўскую з цэнтрам ў Навагародку (у 1472 мітрапаліт Грыгорый Балгарын атрымаў кананічнае прызнанне канстанцінопальскага патрыярха) і Маскоўскую (стала так афіцыйна наз. з 1459), а 12 мітрапалітаў правасл. царквы ў ВКЛ мелі тытул мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі.

На працягу стагоддзяў правасл. царква адыгрывала значную ролю ў культ. і грамадскім жыцці ВКЛ: развіцці школьніцтва, пашырэнні кніжнай навукі і пісьменства, вядзенні судаводства (справы, звязаныя з парушэннем царк. канонаў); духоўныя асобы часта выступалі дарадцамі князёў. У сярэдзіне 16 ст. ў Вільні было 17 цэркваў, у Навагародку – 10, у Берасці і Полацку – па 9, у Віцебску – 7, у Гародні і Слоніме – па 6, у Магілёве, Клецку і Слуцку – па 5. У 15–16 ст., калі вял. князі ВКЛ сталі актыўна спрыяць каталіцкай канфесіі, правасл. царква і правасл. свецкая знаць павялі барацьбу за свае правы. Яны дамагліся ад Ягайлы выдання *прывілея 1432*, які ўраўноўваў правасл. феадалаў у правах з каталікамі і т.ч. аслабляў дыскрымінацыйны *Гарадзельскі прывілей 1413*. *Прывілеем 1434* вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча «руская» знаць дамаглася саслоўнай роўнасці з каталікамі, але па-ранейшаму абмяжоўвалася ў кіраванні дзяржавай. Вял. кн. Жыгімонт Аўгуст *Віленскім прывілеем 1563* адмяніў Гарадзельскі прывілей і ў 1568 пацвердзіў гэта. Асн. палажэнні аб верацярпімасці да праваслаўных зафіксаваны ў акце *Варшаўскай канфедэрацыі1573*, які перанесены ў *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*. У 1592 прынята каралеўская грамата аб тым, каб свецкія ўлады не ўмешваліся ў справы правасл. царквы. Асобнымі каралеўскімі граматамі ў 1592 зацверджаны правасл. брацтвы ў Менску і Берасці. У выніку *Берасцейскай уніі 1596* правасл. царква апынулася ў цяжкім становішчы: большасць епіскапаў на чале з мітрапалітам Міхаілам Рагозам перайшла ва уніяцтва. Пачалося змаганне з уніятамі за храмы і манастыры. Спачатку праваслаўныя аб'ядноўваліся для сумеснай барацьбы разам з пратэстантамі, потым звярталіся за дапамогай да Масквы і ўсх. патрыярхаў, падавалі скаргі ў сойм і Трыбунал ВКЛ. У 1620 Украіну наведаў іерусалімскі патрыярх Феафан, які прызначыў правасл. кіеўскім мітрапалітам Іова Барэцкага і епіскапаў на епархіі, але кароль Жыгімонт III не дапусціў іх да кафедраў. Пасля падаўлення *Віцебскага паўстання 1623*, выкліканага дзеяннямі полацкага уніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча, становішча правасл. царквы пагоршылася, спроба правесці ў 1629 прымірэнчы з'езд праваслаўных і уніятаў не мела поспеху. У 1632, каб супакоіць правасл. казацтва Украіны і пазбегнуць паўстанняў з яго боку, кароль Уладзіслаў IV абвясціў пра стварэнне 3 новых правасл. епархій: Луцкай, Перамышльскай і Магілёўскай. Мітрапалітам кіеўскім быў прызначаны Пётр Магіла, пры якім адбывалася пэўнае адраджэнне правасл. царквы. У 1650 кароль Ян II Казімір вымушаны быў абвясціць пра поўную свабоду для вызнання і культу правасл. царквы. У 1685 правасл. царква Рэчы Паспалітай была падпарадкавана Маскоўскаму патрыярхату. Урад Рэчы Паспалітай разглядаў гэта як парушэнне свайго суверэнітэту, таму зноў пачаў уціск праваслаўных з мэтай далучэння іх да уніі. У 18 ст. рабіліся спробы перадаць Бел. праваслаўную епархію полацкаму уніяцкаму епіскапу. Упартую барацьбу за захаванне правасл. царквы ў 2-й пал. 18 ст. вёў беларускі епіскап Георгій Каніскі. У 1768 пад націскам замежных дзяржаў, у т.л. Расіі, сойм Рэчы Паспалітай згадзіўся ўраўнаваць правы дысідэнтаў (пратэстантаў і праваслаўных) з каталікамі. Аднак карэнныя змены ў становішчы правасл. царквы адбыліся толькі пасля далучэння зямель усх. Беларусі ў



Евангелле вучыцельнае. Еўе. 1616.




Евангелле вучыцельнае. Тытульны ліст . Еўе. 1616.

1772 да Рас. імперыі, дзе праваслаўе было дзярж. рэлігіяй. Каб пазбегнуць новых падзелаў, урад Рэчы Паспалітай імкнуўся стварыць у краіне незалежную ад Расіі правасл. царкву, дзеля чаго была склікана *Пінская кангрэгацыя 1791*, аднак яе пастановы не былі выкананы. У гэты час на тэр. ВКЛ заставалася толькі 50 правасл. прыходаў, а ўсяго ў Рэчы Паспалітай каля 300 (300 тыс. прыхаджан). Пасля далучэння тэр. ВКЛ да Расіі тут пачала ажыццяўляцца палітыка уніфікацыі царк. структуры і паступовага замацавання правасл. царквы як пануючай.

У 2-й пал. 17 ст. ў выніку расколу Рускай правасл. царквы ўзнікла рэліг. плынь – старaабрадніцтва. Яе прыхільнікі – старaабраднікі (стараверы) – адмовіліся прызнаць царк. рэформы патрыярха Нікана і захоўвалі старую абраднасць. Яны падзяляліся на 2 буйныя гал. галіны – папоўцаў і беспапоўцаў. Першыя стаяць бліжэй да афіц. правасл. царквы, у іх ёсць свае святары і епіскапы, у 1846 яны стварылі Белакрыніцкую іерархію на чале з мітрапалітам. Больш радыкальныя беспапоўцы ўвогуле адмовіліся ад інстытута свяшчэнства (адсюль назва). Афіцыйную правасл. царкву яны лічаць ератычнай, якая трапіла пад уладу антыхрыста. Кожная з гэтых галін падзяляецца на сагласы: у папоўстве – аўстрыйскі (Белакрыніцкая іерархія), веткаўскі, дыяканаўскі, епіфанеўскі і інш.; у беспапоўстве – паморскі, федасееўскі, філіпаўскі (спальшчыкі або марэльшчыкі), нетаўскі (спасаўскі), пастухоўскі (адамантавы) і інш. Прычынамі рознагалосся паміж імі сталі спрэчкі па пытаннях культу і адносінах да ўлад. Акрамя падзелу на сагласы існуе падзел на толкі. У ВКЛ старaабраднікі сталі перасяляцца ў 1650-я г. з Памор'я і Ноўгарада. Беспапоўцы (паморцы, федасееўцы, з 1760-х г. філіпаўцы) аселі пераважна на паўн. землях: у Дынабургу, Браславе, Лепелі, Полацку, Себежы, Сянно, Веліжы, Віцебску, Копысі. У сваіх службах беспапоўцы ў асноўным адмаўляліся маліцца за цара, не будавалі вял. і багатых храмаў, часта пераязджалі з месца на месца, што не давала магчымасці весці іх дакладны ўлік, былі больш адасобленымі і замкнёнымі. Папоўцы (і невял. колькасць паморцаў і федасееўцаў) пасяліліся на ПдУ ВКЛ – Магілёве, Чэрыкаве, Ветцы, Гомелі. Папоўцамі былі пераважна заможныя сяляне, рамеснікі, купцы. Найб. пасяленнем папоўцаў (і ўвогуле старaабраднікаў) было мяст. Ветка, вакол якога ў хуткім часе вырасла 14 слабод. У 2-й чвэрці 18 ст. ў Ветцы і слабодах было каля 40 тыс. жыхароў. На Гомельшчыне дзейнічалі ўплывовыя манастыры і скіты, якія адыгрывалі ролю манастыроў: Абрамаўскі, Веткаўскі, Іаасафаўскі, Пыханскі, Тырлаўскі мужчынскія манастыры, жаночы манастыр пры Спасавай слабадзе каля Гомеля, скіты каля вёсак Агародня-Гомельская і Чыстыя Лужы. У 1735 і 1764 рас. войскі двойчы ажыццяўлялі т.зв. «выганкі» з Веткі і слабод; Ветку палілі, захопленых высялялі ў Сібір. Частка старaабраднікаў веткаўскага сагласу здолела ўцячы, пасяліўшыся ў Віцебску, Лепелі, Полацку і іх ваколіцах, каля Бабруйска і Барысава. У канцы 18 ст. па ініцыятыве царскіх улад узнікла новая плынь – адзінаверства, якое было ўмоўным аб'яднаннем старaабраднікаў з правасл. царквой: у імя саюзу з царквой стараверы прымалі ад яе законнае свяшчэнства, а царква дазваляла ім меціць старыя абрады і кнігі. У 1794 пабудавана першая адзінаверская царква ў Гомелі на Спасавай слабадзе. На пач. 19 ст. старaабраднікаў на Беларусі было амаль удвая менш, чым перад выганкай 1764.





Камунія. Дрэварыт. 16 ст.

**Рымска-каталіцкая царква.** Спроба арганізацыйнага афармлення рымска-каталіцкай царквы ў ВКЛ зроблена вял. князем Міндоўгам, які ў канцы 1250 ці 1251 прыняў каталіцкае хрышчэнне, а ў 1252 (паводле інш. звестак у 1253) каралеўскую карону. Восенню 1253 адбылося пасвячэнне ў літоўскія біскупы *Хрысціяна* і *Віта*. Хрысціян прадстаўляў крыжакоў і атрымаў пасвячэнне ад рыжскага арцыбіскупа. Віт быў польскім місіянерам дамініканцам у Прусіі, яго пасвяціў гнезненскі арцыбіскуп. Місія Віта была няўдалай і фактычна Літоўскае біскупства не было арганізавана. Міндоўг адмовіўся ад каталіцтва, а Хрысціян выехаў за мяжу. Пасля княжання Міндоўга на тэрыторыі ВКЛ працягвалася місіянерская дзейнасць каталіцкага духавенства. У 1320-я г. дамініканцы і францысканцы мелі ў Вільні і Навагародку па аднаму кляштару, каталіцкія манахі былі пры дварах вял. князёў Віценя і Гедзіміна. Трывала



Маці Божая са святымі («Сапежынская Мадонна»). 1528.

рымска-каталіцкая царква замацавалася ў ВКЛ пры вял. кн. Ягайле, калі ён прыняў каталіцызм, хрысціў язычнікаў і заснаваў у 1387 Віленскае біскупства (у 1388 зацверджана папам) і першыя 7 парафій. Тэр. біскупства ахоплівала этнічныя літоўскія і большую частку бел. зямель, акрамя паўд.-заходніх з Берасцем і Пінскам, якія ўваходзілі ў склад Уладзімірскага біскупства. Некат. парафіі на ПдУ Беларусі належалі да Кіеўскага біскупства. Віленскае, Жамойцкае (створана ў 1417) і Інфлянцкае (створана ў 1621) біскупствы ўваходзілі ў Гнезненскую мітраполію, а Уладзімірскае (у 1425 аб'яднана з Луцкім біскупствам) і Кіеўскае – у Львоўскую мітраполію. З 1613 на ўсх. землях ВКЛ існавала Смаленскае біскупства (кананічна ў 1636–1798), таксама падпарадкаванае Гнезненскай мітраполіі. На мяжы 16–17 ст. у яе ўвайшло і Луцкае біскупства. Каля 1772 у Віленскім біскупстве было 429 парафій, 26 дэканатаў, 231 кляштар, у т.л. на тэр. сучаснай Беларусі 259 парафій і 180 кляштараў 26 манаскіх ордэнаў (19 мужчынскіх і 7 жаночых). Дзейнічалі кляштары жабрацкіх ордэнаў: францысканцаў, дамініканцаў, кармелітаў абутых, кармелітаў босых, бернардзінцаў, аўгусцінцаў (усяго 106 дамоў), ордэнаў новай фармацыі 16–18 ст.: трынітарыяў, езуітаў, піяраў, місіянераў, марыянаў, баніфратраў, рахітаў і інш. У Віленскім ваяв. было 90 мужчынскіх і 10 жаночых кляштараў, у Берасцейскім – адпаведна 37 і 4, у Навагародскім – 28 і 8, у Менскім – 25 і 6, у Віцебскім – 21 і 6. Большасць кляштараў знаходзілася ў гарадах. Значным манаскім асяродкам была Вільня, якая каля 1772 займала 1-е месца ў Рэчы Паспалітай па колькасці ордэнскага духавенства (774 чал.) і 3-е па колькасці кляштараў (22). Гал. патронам Віленскага біскупства быў абвешчаны св. Казімір. Часовы крызіс рымска-каталіцкай царквы ў перыяд *Рэфармацыі* змяніўся ўмацаваннем яе пазіцый у 17–18 ст. (гл. *Контррэфармацыя*). Гал. ролю ў пашырэнні каталіцызму ў ВКЛ адыгралі *ордэны манаскія*. Яны распаўсюджвалі новыя формы рэлігійнасці і культу, актыўна займаліся місіянерскай і пастырскай дзейнасцю, апекаваліся шматлікімі парафіямі. Дзейнасць рымска-каталіцкай царквы спрыяла распаўсюджванню зах.-еўрап. культ. уплываў і пакінула прыкметны след у гісторыі і культуры, спрыяла развіццю навуч. устаноў і кнігадрукавання, фарміраванню навук. кадраў, у галіне мастацтва прынесла культуру *барока*, культывавала традыцыі школьных тэатраў, грыгарыянскіх спеваў, вакальна-інструментальнай музыкі. Манахамі былі вучоныя і дзеячы культуры Ф.Багамолец, Я.Багамолец, Б.Дабшэвіч, А.Каяловіч, Ж.Лаўксмін, К.Нарбут, Ф.М.Нарвойш, М.Пачобут-Адляніцкі, М.К.Сарбеўскі, І.Страйноўскі, С.Шадурскі, С.Б.Юндзіл і інш. У 1772 у выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай да Рас. імперыі адышла тэрыторыя, на якой жыло каля 100 тыс. католікаў. Указам імператрыцы Кацярыны II у 1773 было створана Бел. біскупства з цэнтрам у Магілёве; яе біскупу С.І.Богуш-Сестранцэвічу былі падпарадкаваны ўсе касцёлы і кляштары ў дзяржаве. Але стварэнне біскупства не было санкцыянавана рымскай курыяй. Імператарскім указам у 1783 замест Бел. біскупства было заснавана Магілёўскае арцыбіскупства, якое зацверджана буллай папы Пія VI ад 15.4.1783. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795–98 замест абвешчанага скасаваным Віленскага дзейнічала Інфлянцкае біскупства з цэнтрам у Вільні, у 1798 Віленскае біскупства адноўлена. У 1795–98 зроблена спроба стварыць Пінскае біскупства (скасавана папскім нунцыем Л.Літам як некананічна ўтворанае).



Св. Антоній Падуанскі. Полацкі езуіцкі калегіум. 18 ст.

**Уніяцкая царква,** грэка-каталіцкая царква. Створана ў выніку Берасцейскай уніі 1596, калі правасл. царква арганізацыйна аб'ядналася з рымска-каталіцкай на ўмовах падпарадкавання рымскаму папе і прыняцця каталіцкай дагматыкі пры захаванні правасл. абраднасці. Спробы ажыццявіць царк. унію ў ВКЛ рабіліся з пач. 15 ст. (гл. *Канстанцкі сабор 1414–18*). *Фларэнційская унія 1439*, падпісаная з боку Кіеўскай мітраполіі мітрапалітам Ісідорам, была адвергнута ў ВКЛ; аднак шэраг літоўска-навагародскіх мітрапалітаў былі яе прыхільнікамі, у т.л. Грыгорый Балгарын, Місаіл, Іосіф I. На Берасцейскім саборы 1596 большасць правасл. епіскапаў на чале з

мітрапалітам Міхаілам Рагозам падтрымала унію. Новаўтвораная уніяцкая царква захавала свае структуры; усе правасл. епархіі, якія ахоплівалі бел. і літ. землі, сталі уніяцкімі (Пінска-Тураўская, Смаленская і Уладзіміра-Берасцейская епархіі, Полацкая архіепархія), а кіраўнікі уніяцкай царквы захавалі тытул мітрапалітаў кіеўскіх (гл. *Кіеўская грэка-каталіцкая мітраполія*). Дагматычныя, абрадава-літургічныя, іерархічныя і юрыд. асновы уніяцкай царквы вызначаны 33 «берасцейскімі артыкуламі», прызнанне якіх было ўмовай для заключэння уніі. Артыкулы былі заклікані ліквідаваць дэзарганізацыю правасл. царквы ва ўсіх сферах духоўнага, матэрыяльнага і культ. жыцця і мелі выразную этнаахоўную накіраванасць. Яны абгаварвалі дзярж. гарантыі паменснасці уніяцкай царквы, стваралі перашкоду яе лацінізацыі і паланізацыі, прадугледжвалі захаванне адм. самастойнасці і незалежнасці ад польскага касцёла, павышэнне сац. статуса епіскапата, захаванне ўсх.-візант. традыцыі. З пачатку заснавання уніяцкая царква сустрэла моцнае супраціўленне з боку правасл. духавенства і свецкіх людзей, пераважна мяшчан, чыя апазіцыйнасць праяўлялася ў розных формах – ад пратэстаў, соймавых дэбатаў, антыуніяцкай палемікі, дзейнасці правасл. брацтваў да рознага роду выступленняў аж да паўстанняў (*Магілёўскае паўстанне 1618, Віцебскае паўстанне 1623*). Уніяцкая царква пашырала свой уплыў шляхам стварэння ўласнай сістэмы асветы, праз *палемічную літаратуру*, кнігавыдавецкую дзейнасць, прапаведніцкае майстэрства, уніяцкія брацтвы, сродкамі мастацтва, заснаваннем сеткі храмаў і манастыроў, але не пазбегла прымусу. Уніяцкая царква карысталася ў літургіі царк.-слав. мовай і старабел. («рускай»), замацаванай у 1636 як мова казанняў. Палітыка правячых колаў Рэчы Паспалітай адносна уніяцкай царквы мела неадназначны, супярэчлівы характар і неаднаразова мянялася са зменамі грамадска-палітычных абставін. З аднаго боку, улады падтрымлівалі уніяцкую царкву, бо яна адпавядала іх палітыцы цэнтралізацыі дзяржавы; з другога – жадалі зліць уніятаў з рымa-католікамі. Недапушчэнне уніяцкай іерархіі ў Сенат сведчыла пра прыніжаны статус уніяцкай царквы, стаўленне да яе дзяржавы як да другараднай. Нягледзячы на дэкрэт Кангрэгацыі прапаганды веры ад 7.2.1624, зацверджаны папам, шматлікія папскія булы і пратэсты грэка-каталіцкага духавенства, перавод уніятаў касцёлам у лацінскі абрад працягваўся ўвесь час існавання уніяцтва. Рэформы мітрапаліта Іосіфа Руцкага па ўмацаванні царквы і ўзвышэнні яе культ. ўзроўню (у т.л. стварэнне ордэна *базыльян* і арганізацыя *базыльянскіх школ*), прыклад М.Сматрыцкага, які прыняў унію, прывялі да росту паслядоўнікаў уніяцкай царквы. З 1630-х г. на бок уніі сталі схіляцца сімпатыі шляхты ВКЛ. Аднак большасць паствы уніяцкай царквы ўвесь час складала сялянства. Асвячэнне іерусалімскім патрыярхам Феафанам у 1620 новай правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай (епіскапы не былі дапушчаны на кафедры каралём Жыгімонтам III), падзел у 1635 культавых устаноў граматай Уладзіслава IV паміж праваслаўнымі і уніятамі зацвердзілі падзел усх. царквы на 2 легальныя кіеўскія мітраполіі – уніяцкую і праваслаўную. Спробы іх паяднання рабіліся на саборах 1629 у Кіеве і 1680 у Любліне, скліканых па ініцыятыве уніяцкай іерархіі, але праігнараваных праваслаўнымі. У 1630-я г. Руцкі выношваў праект стварэння на базе Кіеўскай мітраполіі патрыярхату, агульнага для правасл. і уніяцкай цэркваў, чым зацікавіў правасл. апанентаў, у т.л. мітрапаліта Пятра Магілу. Паводле ананімнай рэляцыі, прадстаўленай у жн. 1647 у Рым для Кангрэгацыі прапаганды веры, на той час на тэр. Рэчы Паспалітай было каля 4 тыс. уніяцкіх і больш як 13,5 тыс. правасл. прыходаў. У час антыфеад. і нар.-вызв. вайны бел. і ўкр. народаў 1648–54 і *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67* уніяцкая царква апынулася на мяжы гібелі. На тэрыторыі, занятай маскоўскім войскам, яе дзейнасць была забаронена. Факт падпарадкавання правасл. Кіеўскай міт-




Пётр Скарга. Тытульны ліст палемічнага выдання «Да Русі грэчаскага набажэнства». Кракаў. 1610.




Літургіон, або Служэбнік. Вільня; Супрасль. 1692–95. Афіцыйнае уніяцкае выданне. Гравёр Л.Тарасевіч.



раполіі Маскоўскаму патрыярхату ў канцы 17 ст. значна змяніў адносіны бел.-укр. грамадства да уніі, у якой многія ўбачылі аснову незалежнасці ад Расіі. Рост праўніяцкіх настрояў, унутраны раскол у правасл. царкве, адыход ад яе шляхты, спад палітычнага значэння казацтва разам з рэформамі мітрапалітаў Руцкага, А.Сялявы, Ц.Жахоўскага, Л.Кішкі па ўзвышэнні культ. ўзроўню уніяцкай царквы спрыялі павелічэнню яе аўтарытэту. Пасля *Андросаўскага перамір'я 1667* урад Рэчы Паспалітай рэзка ўзмацніў падтрымку уніяцкай царквы. Каралі Міхал Вішнявецкі [1669–73] і асабліва Ян III Сабескі [1674–96] адкрыта паказвалі прыхільнасць да яе, хоць і захоўвалі пэўныя прывілеі праваслаўных. У канцы 17–пач. 18 ст. да уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай былі далучаны Перамышльская (1692), Львоўская (1700) і Луцкая (1702) правасл. епархіі. Уніятаў тады стала больш, чым праваслаўных. Гэты працэс ішоў у значнай меры добраахвотна. У час Паўн. вайны 1700–21 уніяцкая царква значна пацярпела ад саюзнага рас. войска: расправа з полацкімі базыльянамі ў 1705, разбурэнне Полацкага Сафійскага сабора ў 1710, спусташэнне базыльянскіх манастыроў, расправа з луцкім епіскапам Д.Жабакрыцкім (у 1702 прыняў унію). Польскі кароль Аўгуст II быў вымушаны заступіцца за уніяцкую царкву перад царом Пятром I. У 18 ст. адбывалася лацінізацыя уніяцкай царквы – пераймание насуперак «берасцейскім артыкулам» рымска-каталіцкай абраднасці. Гэта было вынікам польскай паліт., грамадскай і культ. экспансіі на «рускіх» землях Рэчы Паспалітай (крайнім праяўленнем гэтай экспансіі стаў «Праект аб знішчэнні Аб'яднанай Русі»). У ВКЛ лацінізацыя праявілася больш значна, чым на Украіне; яе праваднікамі былі базыльяне, якія паходзілі з рымска-каталіцкіх шляхецкіх родаў. Гал. ролю ва уніфікацыі абраднасці на лац. ўзор адыграў *Замойскі сабор 1720*. Аднак пасля яго ва уніяцтве сталі выразна акрэсліваццa 2 плыні: першая настойвала на засваенні вопыту і здабыткаў рымска-каталіцкай царквы, а другая не прымала замойскіх навацый і захоўвала старыя правасл. традыцыі, адстойвала чысціню абраду. За ўвесь перыяд дзейнасці уніяцкая царква зрабіла важкі ўклад у развіццё асветы, кнігадрукавання, бібліятэчнай, архіўнай справы, жывапісу, скульптуры, муз. і тэатр. мастацтва, выхавала шэраг выдатных царк. і грамадскіх дзеячаў, вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры. Напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай уніяты мелі тут 8 епархій з 9300 прыходамі, 10 300 святарамі, 4,5 млн. вернікаў і 172 манастыры з 1458 манахамі. На 1790 на бел. землях Рэчы Паспалітай уніятамі былі ад $^2/_3$ да $^3/_4$ насельніцтва (у сельскай мясцовасці да 80% беларусаў). У 1772–95 тэрыторыі, дзе пражывалі уніяты, апынуліся пад рас. і аўстрыйскай уладай і невял. колькасць – пад прускім панаваннем. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай уніяты на далучаных да Расіі землях заставаліся ў складзе Полацкай архіепархіі на чале з Я.*Смагаржэўскім* і былі падпарадкаваны Ліфляндскай, Эстляндскай і Фінляндскай юстыцкалегіі. Адносіны уніяцкай царквы, як і каталіцкай, са свецкай уладай рэгуляваў дадзены каталіцкай абшчыне Пецярбурга «Рэгламент» 1769, які дапускаў сувязі з рымскім папам толькі па пытаннях веры. У 1780–83 адбыліся значныя пераходы з уніяцтва ў праваслаўе. Па звестках магілёўскага правасл. епіскапа Георгія Каніскага, па яго епархіі яны склалі 414 573 чал. і 95 цэркваў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай такім пераводам садзейнічаў таксама указ 1794 «Аб устараненні ўсялякіх перашкод для павароту уніятаў да праваслаўнай грэчаскай царквы». Усяго, паводле звестак гісторыка Р.Я.Кіпрыяновіча, са жн. 1794 да сак. 1795 да праваслаўя было далучана 1 483 111 украінцаў і беларусаў. У 1839 уніяцкая царква скасавана, духавенства і вернікі далучаны да праваслаўя.



Царква уніяцкага базыльянскага манастыра ў Барунах. Сярэдзіна 18 ст.

**Пратэстанцкія цэрквы.** У ВКЛ пратэстанцтва пашырылася з 16 ст. ў перыяд *Рэфармацыі* ў выглядзе лютэранства, кальвінізму, антытрынітарызму і інш.

Лютэранства ў ВКЛ пачало пранікаць у 1520-я г. з Лівоніі і з Усх. Прусіі. Трапляла і непасрэдна з Германіі праз студэнтаў з ВКЛ, якія навучаліся ў ням. ун-тах, асабліва ў


KSiegi ktore pospolicie zowa

Napominánie ku Krzesciáńskiemu
Czytelnikowi.

KSiegi ktore názywáią Apokrifá zá

Лейпцыгскім. Першым значным прапаведнікам лютэранства ў ВКЛ быў А.*Кульвец*, які выкладаў вучэнне Лютэра ў сваёй школе ў Вільні. У 1544 ва Усх.Прусіі быў адкрыты пратэстанцкі Кёнігсбергскі ун-т, які значна паспрыяў распаўсюджванню лютэранства ў ВКЛ і Польшчы. Тут было заснавана некалькі кафедраў з навучаннем на польскай, літ. і старабел. мовах, устаноўлена некалькі стыпендый для выхадцаў з Беларусі, Літвы і Польшчы (сярод выпускнікоў ун-та прадстаўнік Рэфармацыі на Беларусі А.*Волан*), друкавалася пратэстанцкая л-ра. З сярэдзіны 1550-х г. лютэранскія суполкі з'явіліся ў Вільні, Менску, Слуцку і інш. У канцы 16 ст. на тэр. ВКЛ было ад 5 да 8 суполак. Лютэранства было пашырана сярод гараджан, у меншай ступені сярод шляхты. Гал. кіруючым органам лютэранскай царквы ў ВКЛ была выбраная на сінодзе (з'ездзе) Літоўская кансісторыя на чале з прэзідэнтам (пазней суперінтэндантам). У час рэліг. ганенняў у 17–18 ст. лютэране супрацоўнічалі з кальвіністамі і праваслаўнымі, карысталіся падтрымкай Прусіі і Расіі; колькасць вернікаў у гэты перыяд значна скарацілася. Пасля далучэння зямель ВКЛ да Расіі евангелічна-лютэранская і евангелічна-рэфармацкая цэрквы былі падначалены імператару і Генеральнай евангелічнай кансісторыі ў С.-Пецярбургу, а лютэране – Курляндскай евангелічна-лютэранскай кансісторыі (да 1803 існавала Віленская лютэранская кансісторыя, якой падпарадкоўваліся 15 прыходаў Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губ.).

Пратэстанцкая Біблія, выдадзеная па-польску ў 1563 Берасцейскай друкарняй на загад і коштам Мікалая Радзівіла Чорнага.

Гал. сац. базу кальвінізму складалі магнаты, а таксама шляхта і частка гараджан. Пачатак яму ў ВКЛ паклаў віленскі ваявода М.Радзівіл Чорны, які ў 1553 заснаваў у Берасці першы кальвінскі збор з друкарняй. У 1550–70-я г. кальвінізм прынялі Кішкі, Валовічы, Дарагастайскія, Хадкевічы, Саламярэцкія, Тышкевічы і інш. магнацкія роды. У 1563 кальвінісцкая шляхта была ўраўнавана ў правах з каталіцкай і праваслаўнай. Большасць збораў знаходзілася ва ўладаннях феадалаў і ўтрымлівалася за іх кошт. У буйных гандлёвых і рамесных цэнтрах (Вільня, Віцебск, Менск, Полацк і інш.) значную ролю ў кіраванні суполак адыгрывалі гараджане. Пры зборах існавалі шпіталі, школы, друкарні, дзе выдавалася л-ра на польскай і бел. мовах. Кальвіністамі былі асветнікі С.Будны, В.Цяпінскі (пазней перайшлі на пазіцыі антытрынітарызму). У 1560-я г. склалася арганізацыйная структура евангелічна-рэфармацкай царквы. Кальвіністы ВКЛ утварылі асобную Літоўскую правінцыю, якая падзялялася на 6 дыстрыктаў: Берасцейскі (Падляшскі), Віленскі, Жамойцкі, Завілейскі, Навагародскі, Рускі (пазней – Беларускі з цэнтрам у Менску). Вышэйшым органам былі сіноды (правінцыяльныя, а ў дыстрыктах партыкулярныя), у іх рабоце ўдзельнічалі духоўныя і свецкія асобы. Паміж сінодамі кіраўніцтва ажыццяўляў суперінтэндант. Цэнтр правінцыі знаходзіўся ў Вільні. Дыст-



Кальвінскі збор у Заслаўі. Канец 16 – пач. 17 ст.

рыкты кіраваліся сіньёрамі. На чале асобных збораў стаяла духавенства (пастары, прапаведнікі або міністры) і выбраныя са свецкіх асоб старэйшыны (сіньёры, прэсвітэры), важную ролю адыгрывалі патроны суполак. У перыяд *контррэфармацыі* большасць кальвіністаў перайшла ў каталіцтва, тыя, што засталіся, абмяжоўваліся ў правах. Пасля далучэння зямель ВКЛ да Рас. імперыі кальвіністы аб'ядналіся вакол Віленскага евангелічна-рэфармацкага Сінода (да 1840 – Літоўскі) і былі падпарадкаваны Генеральнай евангелічнай кансісторыі.

У 2-й пал. 16 ст. ў ВКЛ шматлікія абшчыны (у Лоску, Клецку, Любчы, Іўі, Навагародку) стварылі прадстаўнікі рэфармацыйнага руху – *антытрынітарыі* (вядомы таксама як арыяне, літоўскія ці польскія браты, пазней сацыніяне). Яны мелі свае органы самакіравання, вялі выдавецкую дзейнасць, склікалі агульныя сіноды. Падзяляліся на 2 кірункі – памяркоўны і радыкальны. Антытрынітарыі зазналі ганенне каталіцкай царквы і артадаксальнага пратэстантызму. У 1647 іх друкарні і школы зачынены, а ў 1658–60 паслядоўнікі антытрынітарыяў выгнаны з Рэчы Паспалітай.

**Іудзейскае веравызнанне.** Першыя дакладныя звесткі аб пасяленні яўрэяў-іудаістаў на землях ВКЛ вядомы з *прывілея 1388* вял. кн. Вітаўта, дадзенага яўр. абшчыне Берасця. Да 1389 такія прывілеі атрымалі таксама яўр. абшчыны ў Горадні, Луцку, Троках, Уладзіміры-Валынскім. У цэнтр. і ўсх. Беларусі яўрэі рассяліліся з 16 ст. Тады пачалося будаўніцтва мураваных і драўляных сінагог, якія былі ў кожным мястэчку і па некалькі ў кожным горадзе. Акрамя сінагог у многіх населеных пунктах існавалі і невял. малітоўныя дамы. У іудаізме не было такой разгалінаванай іерархіі, як у каталіцызме ці праваслаўі. Яўр. абшчыны ВКЛ і Польшчы мелі ўнутранае самакіраванне. Асн. духоўныя функцыі ажыццяўлялі рабіны, якія выбіраліся яўр. абшчынай і разам са старшымі адказвалі за ўсе сінагагальныя справы. У мясцовых актах рабіны нярэдка наз. дактарамі, а культавыя ўстановы – школамі. Акрамя богаслужэння, пропаведзяў, тлумачэння Бібліі, выканання рэліг. рытуальных абрадаў, рабіны ўзначальвалі ешыботы (школы для моладзі), юрыд. ўстановы, уваходзілі ў кіраўніцтва абшчыны, выконвалі інш. адм. абавязкі. Гал. рабіны кіравалі абласнымі абшчынамі. Разам з абранымі прадстаўнікамі акруг яны ўваходзілі ў вярх. орган яўр. самакіравання ВКЛ – Літоўскі ваад. У 16 ст. былі зроблены спробы цэнтралізаваць і падначаліць аўтаномную арг-цыю яўр. абшчын ВКЛ. У 1514 Жыгімонт І Стары выдаў прывілей берасцейскаму яўрэю Міхелю Язофавічу, які даваў яму шырокія правы «старшага» ўсіх яўр. абшчын, асабліва ў судовых і сац.-эканам. сферах. Абшчыны выбіралі таксама кантараў (спевакоў), рэзнікаў і інш. служак. У 18 ст. з Валыні ў ВКЛ пачала пранікаць новая містычная рэліг. плынь – *хасідызм*. Хасідскія лідэры – цадзікі (святыя, праведнікі) – у адрозненне ад рабінаў лічыліся пасрэднікамі паміж вернікамі і Богам, цудатворцамі і празорцамі. Духоўныя функцыі ў нешматлікіх абшчынах *караімаў* (галоўная ў Троках) выконвалі хазаны – кантары, якія адначасова былі спавядальнікамі. У сваёй царк.-рэліг. практыцы караімы, як і пратэстанты, абапіраліся на біблейскія рэліг. традыцыі. Пасля далучэння земляў ВКЛ да Расіі іудзейскае веравызнанне ўзаконена Палажэннем аб яўрэях 1804 (за абшчынамі захоўвалася права выбару рабіна на 3 гады, якога павінен быў зацвярджаць губернатар).



Віленская старая сінагога. Малюнак Ф.Смуглевіча. 1786.

**Мусульманскае (ісламскае) веравызнанне.** Іслам суніцкага толку вызнавала татарскае насельніцтва ВКЛ. Упершыню татары з'явіліся тут, відаць, у 13 ст., калі яны былі яшчэ язычнікамі. Масавае пранікненне татараў-мусульман пачалося ў канцы 14 ст., калі вял. кн. ВКЛ Вітаўт запрасіў іх на вайсковую службу. Значныя абшчыны татараў з мячэцямі ў 15–16 ст. існавалі ў Лукішках і Сарака Татарах (каля Вільні), Некрашунцах (каля Воранава), Троках, Навагародку і інш. гарадах і мястэчках. Мячэці былі асн. культавымі цэнтрамі мусульманскіх прыходаў (джаміятаў) і абслугоўваліся муламі (імамамі), якія ажыццяўлялі розныя духоўныя і судовыя функцыі, вялі метрыкі, правілі

службу. Памочнікамі мулаў былі муэдзіны, якія склікалі вернікаў у мячэць, гучна чыталі малітвы і г.д., а таксама годжы, якія вучылі дзяцей Карану. Богаслужэнне вялося на арабскай, пропаведзі – на цюркскай (пазней на старабел.) мовах, а некат. рэліг. кнігі ў 16–18 ст. пісалі арабскім пісьмом на старабел. і польск. мовах. Мулы прыбывалі з Арды, Крыма, некат. атрымлівалі духоўную адукацыю ў Турцыі. Люблінскі сойм 1569 пацвердзіў права татарскага насельніцтва на будаўніцтва мячэцяў і падрыхтоўку мусульманскага духавенства для найб. значных пасад за межамі дзяржавы. Спробы Атаманскай Порты (Турцыі) кіраваць дзейнасцю мусульманскага духавенства ВКЛ абмяжоўваліся. У 1672 кароль Ян III Сабескі забараніў татарам ВКЛ прымаць фетвы – духоўныя наказы з Турцыі (султан адначасова лічыўся халіфам – духоўным кіраўніком усіх мусульман). Пэўныя судова-рэліг. функцыі ў ВКЛ належалі кады – старшаму мусульманскаму суддзі ў ВКЛ. У 16–18 ст. на тэр. Беларусі і Літвы дзейнічала каля 20 мячэцяў. Пасля далучэння тэр. ВКЛ да Расіі прававое становішча мусульман і іх духавенства рэгулявалася агульнарас. заканадаўствам аб мусульманах. Мусульмане Беларусі і Літвы былі падпарадкаваны Таўрычаскаму духоўнаму праўленню.



Віленская мячэць. Малюнак Ф.Смуглевіча. 1786.

*Літ.*: Łukaszewicz J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. T. 1–2. Poznań, 1842–43; Коялович М.О. Литовская церковная уния. Т. 1–2. СПб., 1859–61; Чистович И. Очерк истории западнорусской церкви. Ч. 1–2. СПб., 1882–84; Бершадский С.А. Литовские евреи... 1388–1569 г. СПб., 1883; Киприанович Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1895; Chodynicki K. Kościół prawosławny a Rzeczpospolita Polska: Zarys historyczny, 1370–1632. Warszawa, 1934; Kościoł w Polsce. T. 1–2. Kraków, 1966–70; Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). Мн., 1971; Яго ж. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. Мн., 1974; Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972; Trajdos T.M. Kościół katolicki na ziemiach ruskich Korony i Litwy za panowania Władysława II Jagiełły, 1386–1434. Wrocław etc., 1983; Kosman M. Litewska Jednota ewangelicko-reformowana od połowy XVII w. do 1939. Opole, 1986; Яго ж. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. 3 изд. Мн., 1990; Короткая Т.П., Прокошина Е.С., Чудникова А.А. Старообрядчество в Беларуси. Мн., 1992; Думін С.У., Канапацкі І.Б. Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. Мн., 1993; Стахів М. Христова Церква в Україні, 988–1596. Львів, 1993; Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 1-7. 2 изд. М., 1994–96; Лакотка А.І. Бераг вандраванняў, ці Адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994; Паславський І. Між Сходом і Заходом: Нариси з культурно-політичної історії Української Церкви. Львів, 1994; Ульяновський В.І. Історія церкви та релігійної думки в Україні. Кн. 1–2. Київ, 1994; Марозава С.В. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596–1839 гг.). Гродна, 1996; Яе ж. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады). Гродна, 2001; З гісторыі уніяцтва ў Беларусі: (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996; Litak S. Kościół łaciński w Rzeczypospolitej około 1772 roku. Lublin, 1996; Голубинский Е. История русской церкви. Т. 1–2. 2 изд. М., 1997–98; Власовський І. Нарис історії Української Православної Церкви. Т. 1–4. Київ, 1998; Гарбацкі А.А. Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы XVII–пачатку XX стст. Брэст, 1999; Degiel R. Protestanci i prawosławni: Patronat wyznaniowy Radziwiłłów birżańskich nad Cerkwią prawosławną w księstwie słuckim w XVII w. Warszawa, 2000; Ґудзяк Б. Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородський патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000; Mironowicz A. Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. Białystok, 2001; Яго ж. Kościół prawosławny w państwie Piastów i Jagiełłonów. Białystok, 2003; Беднов В.А. Православная церковь в Польше и Литве: (по Volumina Legum). 2 изд. Мн., 2002.

***Георгій Галенчанка, Ігар Ганчарук, Андрэй Гарбацкі, Сяргей Казуля, Святлана Марозава, Алена Філатава, Валянціна Яноўская.***

## асвета

Развіццё асветы ў ВКЛ мела сваім фундаментам значныя дасягненні стараж. усх.-славянскай культуры. У 10–13 ст. пісьменнасць была распаўсюджана нават сярод менш радавітых і заможных гараджан. Менавіта ім, а не прадстаўнікам духавенства і феад. знаці, належаць «аўтографы», што дайшлі да нас з тых часоў. Творчасць асветнікаў Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча і інш. мела вял. мастацка-педагагічную каштоўнасць для развіцця культуры ў ВКЛ і была прадуктам мясцовага духоўнага жыцця.

Фарміраванне прагрэсіўных канцэпцый асветнікаў у значнай ступені засноўвалася на здабытках нар.-педагагічнай традыцыі. Сутнасць яе ў імкненні да фарміравання станоўчых асобасных якасцей падрастаючага пакалення, захавання ў інфарматыўнай памяці народа метадаў працоўнага навучання разнастайным рамёствам, асновам мастацкай культуры, павагі да роднай мовы. Пэўную ролю ў распаўсюджванні элементарных ведаў адыгрывалі прадстаўнікі нар. музычна-песеннай культуры – скамарохі, валачобнікі, мядзведнікі.

Неацэнны ўклад у справу пашырэння асветы на тэр. ВКЛ належыць школьнай адукацыі, якая мела ў асн. ярка выражаны клерыкальны характар. Пры правасл. і каталіцкіх храмах дзейнічалі прыходскія і кафедральныя школы. Адной з самых стараж. кафедральных школ была Віленская (узнікла ў 1387/88). Побач з падрыхтоўкай свяшчэннаслужыцеляў, кафедральныя школы выконвалі і агульнаадукацыйную, асветніцкую функцыю. У некат. з іх навучальныя праграмы складаліся з «сямі вольных навук» – граматыкі, дыялектыкі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, геаметрыі, астраноміі.



«Катэхізіс» С.Буднага. Нясвіж. 1562.

Значны ўклад у развіццё асветы ВКЛ зрабілі правасл. брацтвы, іх друкарні і школы. Брацкія школы былі адкрыты ў Вільні (каля 1584), Магілёве (1590), Берасці (1591), Менску (1612), Пінску, Слуцку, Іўі, Шклове, Львове, Кіеве, Луцку і інш. гарадах. Сярод прадметаў былі дыялектыка, астраномія, бел., царк.-слав., грэчаская, лац. і польск. мовы, арыфметыка, рыторыка, музыка і інш. Найб. аўтарытэтнымі педагогамі брацкіх школ былі Л.*Зізаній* і С.*Зізаній*, М.*Смятрыцкі*, Ю.Бабровіч, Ц.Горбач, Ф.Тарасовіч і інш. Выпускнікам, а пасля настаўнікам брацкай школы быў вядомы асветнік і педагог *Сімяон Полацкі*, аўтар прагрэсіўных для свайго часу педагагічных твораў.

Пачынаючы з 2-й пал. 16 ст. школьная справа ў ВКЛ развівалася пераважна пад манапольным уплывам ордэна езуітаў. Першая школа ордэна адкрылася ў Вільні ў 1570 (з 1579 акадэмія). Былі заснаваны школы (калегіумы) у Менску, Гародні, Берасці, Віцебску, Навагародку, Оршы, Слуцку і інш. Калегіумы мелі 2 аддзелы: ніжэйшы (3 класы)





Старонка Евангелля В.Цяпінскага. Каля 1575.

і вышэйшы (у некат. калегіумах складаўся з 2 класаў – філасофіі і багаслоўя). Праводзіліся заняткі па этыцы, багаслоўі, матэматыцы. Прыродазнаўчым навукам аддавалася нязначная ўвага. Сам працэс навучання вёўся на лац. мове, стаўленне да бел. і інш. славянскіх моў было негатыўнае.

Рэфармацыйны рух у межах ВКЛ суправаджаўся арганізацыяй кальвініскіх, арыянскіх, лютэранскіх і інш. школ. У сярэдзіне 16 ст. толькі на Беларусі існавала амаль 200 кальвініскіх збораў, пры якіх дзейнічалі школы. У іх вывучаліся матэматыка, гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, рэлігія, лац. і бел. мовы. Арыянскія школы былі адкрыты ў Нясвіжы, Лоску, Клецку і інш. Настаўнікамі ў іх працавалі адукаваныя людзі, з еўрапейскім узроўнем ведаў. Рэктар арыянскай школы ў Іўі, гуманіст-асветнік Я.Л.*Намыслоўскі* прапагандаваў неабходнасць засваення антычнай спадчыны. У 1586 ім быў падрыхтаваны «Дапаможнік для авалодання вучэннем Арыстоцеля», у 1589 выдаў кнігу «Сентэнцыі, якімі трэба кіравацца ў жыцці». Намыслоўскі самастойна распрацаваў навучальную праграму сваёй школы, у якую ўваходзілі шматлікія гуманітарныя дысцыпліны. Да сярэдзіны 17 ст. каталіцкім колам удалося разграміць пратэстантызм і закрыць большасць пратэстанцкіх школ.



Стафан Баторый заснoўвае Віленскую акадэмію. Карціна В.Смакоўскага.

З 1720-х г. засноўваліся платныя і бясплатныя школы ордэна піяраў. Важнейшай асаблівасцю піярскага падыходу да арганізацыі навучальнага працэсу было творчае асэнсаванне заканамернасцей яго развіцця з улікам канкрэтна-гіст. рэалій. Гал. вынікам гэтага стала рэформа ў 2-й пал. 18 ст. сістэмы піярскіх школ паводле плана польскага педагога-наватара С.*Канарскага*. Рэфармаваныя школы сталі 6-класнымі, паглыбілася вывучэнне матэматыкі, гісторыі, геаграфіі і прыродазнаўства. Вял. ўвага аддавалася падрыхтоўцы польскамоўных падручнікаў.

Іншыя рымска-каталіцкія манаскія ордэны (бернардзінцы, дамініканцы, кармеліты, францысканцы і інш.) таксама адкрывалі школы ў розных месцах ВКЛ.

Ордэн езуітаў імкнуўся да поўнай манапалізацыі каталіцызмам навучальнага працэсу, закрываючы рознымі спосабамі кальвініскія, арыянскія і правасл. брацкія школы. Вялася сістэматычная работа ў кірунку афіц. замацавання езуіцкіх прывілеяў на педагагічную дзейнасць каралямі, епіскапамі, магістратамі. Пасля закрыцця ордэна езуітаў (1773) ажывілася педагагічная актыўнасць уніяцкіх (базыльянскіх) школ. Іх структурная арганізацыя была неаднародная, а падзелы Рэчы Паспалітай прывялі да ліквідацыі ўсіх навучальных устаноў уніятаў.

Адсутнасць у ВКЛ (да 1579) вышэйшых навуч. устаноў падштурхоўвала моладзь да вучобы ў замежных ун-тах – Кракаўскім, Падуанскім, Пражскім, Балонскім, пазней – Вітэнбергскім, Лейпцыгскім, Каралявецкім і інш. Так, у Кракаве з 1510 па 1560 навучаліся 84 студэнты з 30 гарадоў Літвы і Жамойці. Падуанскі ун-т да 16 ст. рыхтаваў для ВКЛ пераважна лекараў і юрыстаў, потым – гісторыкаў, філолагаў і філосафаў. У 17 ст. для Рэчы Паспалітай ім падрыхтаваны 163 дактары медыцыны. У 1545 герцаг Прускага княства Альбрэхт выдзеліў спец. стыпендыі для бел.-літоўскай моладзі ў Каралявецкім ун-це.

Паступова развівалася кніжная пісьменнасць. У 13–16 ст. пераважала царк.-рэліг. і богаслужэбная л-ра. Акрамя святога пісання і літургічных рукапісаў характэрны каментарыі да кніг Біблії і пастаноў царк. сабораў, пропаведзі, павучанні, урачыстае красамоўства. Манаполія (хоць і не абсалютная) рукапіснай справы царквой і манастырамі вяла да пэўнай аднабаковасці развіцця асветы ў ВКЛ. Практыка царк. цэнзуры на аснове візант. індэксаў папоўнілася ў 14–16 ст. мясцовымі «памылковымі і асуджанымі творамі». Свецкія ж перапісчыкі імкнуліся ўлічваць грамадскую цікавасць

да кніг рознага зместу. Гэта абумовіла пашырэнне ў 15–16 ст. гіст. твораў, станаўленне бел.-літ. летапісання. Яскравым прыкладам эвалюцыі апошняга ў кірунку свецкай канкрэтна-гіст. белетрыстыкі стала *Хроніка Быхаўца*.

Працэс накаплення рукапісных кніг вёў да заснавання прыватных, свецкіх і царк.-манастырскіх кнігазбораў. Паводле старадаўніх вопісаў, б-кі Слоніма, Шчучына, Вільні і інш. гарадоў ВКЛ мелі творы многіх мысліцеляў антычнасці – Платона, Арыстоцеля, Герадота, Тацыта, Плінія Малодшага, Ювенала, Плутарха, Ціта Лівія, Цыцэрона і інш. Наспявала неабходнасць больш грунтоўнага падыходу да кніжнай справы ў цэлым.



Разварот Евангелля П.Мсціслаўца. Вільня. 1575.

Гуманістычныя традыцыі зах.-еўрап. Рэнесансу зрабілі сур'ёзны уплыў на ход далейшага развіцця асветы ў ВКЛ. Зараджалася бел. кнігадрукаванне. Ф.*Скарына* пераклаў на «рускую» (беларускую) мову, адрэдагаваў і выдаў 23 біблейскія кнігі з уласнымі прадмовамі, пасляслоўямі і гіст. каментарыямі. На фарміраванне асветніцкай пазіцыі Скарыны істотна паўплывалі этычныя канцэпцыі антычных філосафаў. Трактуючы Біблію як энцыклапедыю ведаў, ён лічыў магчымым і неабходным яе выкарыстанне не толькі для засваення «сямі вольных навук», але і пры вывучэнні гісторыі, геаграфіі, медыцыны, права, філасофіі, этыкі. Доказам таго, што сваім выданнем Бібліі Скарына вырашаў пераважна асветніцкія задачы, служыць вядомая вольнасць яго падыходу да біблейскіх тэкстаў (пропуск асобных фрагментаў, уласныя дапісы) і першачарговы выпуск найб. практычна карысных раздзелаў. У прадмове да «Псалтыра» Скарына надзвычай выразна акрэсліў асветніцкія задумы: «Детем малым початак всякое доброе наукы, дорослым помножение в науке, мужем мощное утверьжение». «Малая падарожная кніжка» змяшчала падобны да тагачасных (польскага і чэшскага) каляндар, некат. астранамічныя звесткі, ігнаруючы дні памяці святых.

«Граматыка», выдадзеная ў Віленскай друкарні Мамонічаў у 1586.



Справу Скарыны ў галіне бел. кірылічнага кнігадрукавання прадоўжылі заснавальнікі друкарні ў Нясвіжы С.*Будны*, М.*Кавячынскі* і Л.*Крышкоўскі*. У 1562 тут выйшлі на бел. мове працы Буднага «Катэхізіс», «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» і інш. Будны лічыў знаёмства і засваенне духоўнай культуры антычнасці неабходным фактарам паспяховага развіцця асветы ў ВКЛ. Паводле яго разважанняў адукаваны чалавек і асабліва дзярж. дзеяч «павінен многа ... чытаць, прычым не толькі Свяшчэннае пісанне, а і язычніцкія кнігі, каб ведаць, што да яго адбывалася». Будны сам актыўна займаўся пед. дзейнасцю: з 1558 выкладаў катэхізіс на бел. мове ў пратэстанцкай школе ў Вільні, з 1562 быў кальвініцкім прапаведнікам у Клецку. Выхаваўчы працэс ён разглядаў з гуманістычных пазіцый, выступаў супраць сляпой веры ў аўтарытэты, традыц. рэліг.-філас. канцэпцыі. Аднадумцам С.Буднага быў В.*Цяпінскі*, які заснаваў сваю друкарню і выдаў у 1570-я г. Евангелле на царк.-слав. і бел. мовах з уласнаю прадмовай, якая стала класікай бел. гуманіст.-асветніцкай патрыятычнай публіцыстыкі 16 ст.

Справу рэфармацыйнага кнігадрукавання развівалі адпаведныя берасцейскія друкарні і друкарні ў Нясвіжы, Венграве, Вільні, Любчы, Слуцку, Уздзе, Лоску, Іўі, Ашмянах. Імі выдадзена некалькі соцень кніг, сярод іх *«Берасцейская Біблія»* (1563), *«Нясвіжская Біблія»* (1572), «Новы запавет» (1574), «Размова паляка з літвінам», «Пратэй, або Пярэварацень» (абедзве 1564) і інш. Ідэі *Рэфармацыі* знайшлі шырокі водгук у асяроддзі буйных магнатаў ВКЛ (Радзівілаў, Сапегаў, Тышкевічаў, Кішкаў і інш.). Іх дабрачыннасць садзейнічала пашырэнню асветы ў княстве, дазваляла адкрываць новыя храмы, школы, друкарні. Гал. пратэктар кальвінізму ў ВКЛ, віленскі ваявода М.*Радзівіл* Чорны ў 1563 ахвяраваў гадавы прыбытак усіх сваіх маёнткаў (10 тыс.

дукатаў) на пераклад і выданне Біблії. Канцлер ВКЛ А.*Валовіч* фінансаваў Нясвіжскую друкарню, арганізаваў і забяспечыў дзейнасць некалькіх бясплатных школ і бальніц у сваіх маёнтках, а яго тастамент (1587, на бел. мове) прадугледжваў вольную ўсім сялянам. Крызіс рэфармацыйнага руху ў ВКЛ у канцы 16–1-й пал. 17 ст., пераход уплывовых феадалаў, патронаў пратэстанцкіх абшчын у каталіцызм садзейнічалі аслабленню рэфармацыйнага кнігадрукавання ў ВКЛ.


ГРАММАТІКИ

У 1523 герцаг Альбрэхт Брандэнбургскі заснаваў друкарню ў Караляўцы, дзе ў 1547 выйшла першая кніга на літ. мове – лютэранскі катэхізіс «Простыя словы катэхізіса» М.*Мажвідаса*. У ёй, акрамя катэхізіса, змяшчаліся першы літ. буквар і гімны. Пераклад гімнаў быў зроблены выкладчыкамі Каралявецкага ун-та А.*Кульвяцом* і С.*Рапалёнісам*. У далейшым развіцці літ. пісьменства і пашырэнні асветы на этнічных літ. землях значную ролю адыгралі выдадзеныя ў друкарні Віленскай акадэміі першыя літоўскія кнігі на тэр. ВКЛ – «Катэхізіс» Я.Лядэсмы (1595) і «Кароткі спосаб паспавядацца ад грахоў» у перакладзе з польскай мовы М.*Даўкшы*. Тут жа была апублікавана і найб. грунтоўная праца Даўкшы – літ. пераклад «Пасцілы каталіцкай» (1599) польскага тэолага Я.Вуека.

Прыкметны ўклад у развіццё асветы ў ВКЛ зрабілі І.*Фёдараў* і П.*Мсціславец*, якія перабраліся з Масквы ў ВКЛ і пры падтрымцы гетмана Р.Хадкевіча выдалі ў яго маёнтку Заблудава «Евангелле вучыцельнае» (1569) і «Псалтыр з Часаслоўцам» (1570). Пазней Фёдараў працягваў выдавецкую дзейнасць у Львове і Астрогу, дзе надрукаваў «Азбуку» (1574, Львоў; 1578, Астрог), першую поўную слав. Біблію кірылічнага шрыфту, т.зв. «Астрожскую біблію» (1581). Мсціславец па запрашэнні кнігавыдаўцоў Мамонічаў адрадзіў у Вільні кірылічнае кнігадрукаванне. У выніку ўскладнення сац.-паліт. умоў, палітыкі абмежавання брацкага кнігадрукавання гал. цэнтры кірылічнага кнігадрукавання з 2-й чвэрці 17 ст. перамясціліся ў Магілёў і Куцейна (каля Оршы). Творчыя ўзаемасувязі народаў ВКЛ адбіліся ў дзейнасці вандроўных друкароў С.*Собаля* (працаваў у друкарнях Кіева, Куцейна, Магілёва), М.*Слёзкі* (Вільня, Львоў), П.Д.Люткевіча (Менск, Угарцы, Луцк). Пэўнае развіццё ў 17–18 ст. атрымала уніяцкае кнігадрукаванне ў Вільні пры базыльянскім Троіцкім манастыры і ў Супраслі. Супрасльская друкарня да пач. 19 ст. надрукавала больш за 120 кірылічных выданняў і каля 300 лацінска-польскімі шрыфтамі.


РѴѲМОЛОГІОН
или
СТІХОСЛОВЪ

Асвета ў ВКЛ у 2-й пал. 17–1-й чвэрці 18 ст. развівалася ва ўмовах практычна абсалютнай манаполіі клерыкалізму. Асн. тыпам агульнаадук. школ сталі навучальныя ўстановы розных каталіцкіх манаскіх ордэнаў. Замест беларускай афіцыйнай мовай ВКЛ стала польская. Спынілі працу бел. школы і друкарні. Публікавалася пераважна рэліг.-схаластычная л-ра, свецкія кнігі выходзілі даволі рэдка. Рэаніміравалася тэлеалагічнае разуменне гісторыі, якое найб. яскрава выявілася ў гіст. і рэліг.-маралізатарскіх творах прафесара Віленскай езуіцкай акадэміі В.Тылькоўскага (1624–95). Разам з тым пачаў фарміравацца і антысхаластычны падыход да працэсу адукацыі (прафесары філасофіі Віленскай акадэміі А.С.Кміціц і М.Карскі). Асэнсоўвалася пазітыўная роля навукі і асветы ў цэлым. Пачалі выходзіць перыяд. выданні (каралеўскі прывілей на гэта ВКЛ атрымала ў 1757). Неабходнасць вырашэння актуальных праблем сац.-эканам. развіцця абумовіла спробы карэннай рэформы сістэмы адукацыі і арганізацыі школьнай справы. Канкрэтна-практычныя захады ў гэтым кірунку рэалізаваліся ў дзейнасці *Адукацыйнай камісіі*.

Тытульны ліст «Граматыкі славянскай» М.Сматрыцкага. Еўе. 1619.

Тытульны ліст рукапіснага зб. «Рыфмалагіён, ці Вершаслоў» Сімяона Полацкага. 1681.

*Літ.*: Харлампович К.В. Западнорусские православные школы XVI и начала XVIII в., отношение их к инославным, религиозное обучение в них и заслуги их в деле защиты православной веры и церкви. Казань, 1898; Из истории школы Белоруссии и Литвы. М., 1964; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии. Мн., 1977; Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985; Голенченко Г.Я. Открытие Скорины. Мн., 1989; Асвета. Гісторыя. Мова. Брэст, 1992; Болбас В.С. Ідэі маральнага выхавання ў педагагічнай думцы Беларусі эпохі Адраджэння (XVI–XVII ст.). Мн., 1996.

***Мікалай Рыбко.***

## літаратура

Развіццё л-ры ў ВКЛ спачатку цалкам грунтавалася на тых пісьмова-моўных традыцыях, якія існавалі на бел. землях, што ўвайшлі ў склад гэтай дзяржавы. Пераважала л-ра царк.-рэліг. характару, перапісваліся асобныя кнігі Біблії, розныя зб-кі богаслужэбнага прызначэння, словы, прытчы, павучанні, жыцці святых, духоўныя аповесці і інш. напісаныя на царк.-слав. мове творы. Захаваліся Полацкія, Друцкае, Аршанскае, Лаўрышаўскае, Мсціжскае евангеллі – выдатныя помнікі кніжнай культуры Беларусі 13–14 ст. З 14 ст. старабел. мова пачала выконваць у ВКЛ ролю агульнадзяржаўнай, стала важным сродкам грамадскіх зносін, асновай культ.-гіст. жыцця краіны. Гэта спрыяла яе ўдасканаленню і шырокаму распаўсюджанню, актыўнаму развіццю ў краіне свецкага дзелавога пісьменства. На гэтай мове складаліся розныя граматы, лісты, прывілеі, дагаворы і інш. акты службовага прызначэння, што выдаваліся вял. князямі і мясц. ўладамі, у т. л. буйных гарадоў, напр., Полацка, таму шмат якія помнікі дзелавога пісьменства ВКЛ, складзеныя на старабел. літ. мове (статуты, агульнадзярж. летапісы і хронікі, шматтомная Метрыка), з'яўляюцца агульнай культ. спадчынай бел. і літоўскага народаў. У зносінах з зарубежнымі краінамі, з прадстаўнікамі свецкіх і духоўных улад каталіцкай Еўропы выкарыстоўвалася лац. мова, на якой напісаны граматы Міндоўга, Гедзіміна і інш. Лацінамоўнае пісьменства з канца 14 ст. стала паволі пашырацца на тэр. этнічнай Літвы ў сувязі з пачаткам яе хрысціянізацыі па каталіцкім абрадзе, а пасля і на бел. землях.

У эпоху позняга сярэдневякоўя ў ВКЛ працягвалася станаўленне ўласна бел. л-ры, якое адбывалася даволі марудліва. Слаба развіваліся аратарская проза і публіцыстыка, перажывала крызіс агіяграфія. «Жыцце віленскіх пакутнікаў», тэматычна звязанае з бел.-літ. рэгіёнам, узнікла за межамі ВКЛ. Відным прадстаўніком царк. красамоўства быў *Грыгорый* Цамблак, абраны ў 1415 у Новагародку кіеўскім мітрапалітам. Яго ўрачыстыя словы-пропаведзі, напісаныя вобразнай мовай, былі значнаю з'яваю ў царк. аратарскай прозе таго часу. Новыя якасці набыла паломніцкая проза. Апісанні падарожжаў на Блізкі Усход змястоўна ўзбагаціліся: апрача «святых» мясцін аўтары пачалі цікавіцца інш. краінамі, падзеямі грамадска-паліт. і культ. гісторыі розных народаў. Асобныя творы паломніцкай л-ры нагадвалі дзённікі падарожжаў. Значным крокам у развіцці гэтага жанру было «Хаджэнне ў Царград» *Ігнація Смалянiна* (канец 14 ст.), напісанае назіральным і таленавітым аўтарам. У 15–пач. 16 ст. ўзнік панегірычны жанр пахвал, што прысвячаліся асобным дзярж. дзеячам ВКЛ (*«Пахвала Вітаўту»*, «Пахвала гетману Канстанціну Астрожскаму» і інш.).

На раннім этапе гісторыі ВКЛ найб. росквіту дасягнула летапісанне, якое адчула значны ўплыў стараж.-рус. і адыграла выдатную ролю ў станаўленні бел. і літоўскай гіст. прозы. На змену мясц. летапісам з'явіліся агульнадзярж. бел.-літоўскія, у якіх адлюстравана багатае мінулае бел. і літоўскага народаў. З агульнадзярж. пазіцый асвятляліся падзеі ў *«Летапісцы вялікіх князёў літоўскіх»* (1-я трэць 15 ст.) і *Беларуска-літоўскім летапісе 1446*. У іх выявіліся погляды грамадскіх колаў Беларусі і Літвы, што

падтрымлівалі велікакняжацкую ўладу ў яе барацьбе з феад. раздробленасцю, за паліт. адзінства і магутнасць сваёй краіны. Істотна змянілася і жанравая прырода бел.-літоўскіх летапісаў, асаблівасцю якой стала спалучэнне традыц. пагадовай формы выкладу з прагматычным апавяданнем пра мінулае. Быў выпрацаваны своеасаблівы летапісны стыль, лаканічны, выразны, блізкі да стылю дзелавога пісьменства. Важным гіст. падзеям прысвячаліся невял. аповесці – асобныя творы са сваімі героямі і самастойным сюжэтам. У 15 ст. з'явіліся і першыя пераклады на бел. мову твораў рэліг. характару (асобныя кнігі Біблії, аповесці «Пакуты Хрыста», «Жыціе Аляксея, чалавека божага» і інш.), што засведчыла пачатак працэсу дэмакратызацыі на бел. землях царк.-рэліг. пісьменства і паказала вял. лексіка-стылістычныя багацці і маст.-выяўл. магчымасці бел. літ. мовы таго часу.

Істотныя сац.-паліт. і культ. зрухі ў жыцці грамадства (16 ст.), зараджэнне гуманіст. светапогляду, пашырэнне ўзаемасувязей з перадавымі краінамі Еўропы, узнікненне кнігадрукавання і інш. фактары спрыялі больш актыўнаму развіццю л-ры ВКЛ. Узніклі Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588, складзеныя адпаведна пад кіраўніцтвам канцлераў А.*Гаштольда*, М.*Радзівіла* Чорнага, А.*Валовіча* і падканцлера Л.*Сапегі* – выдатныя, еўрап. ўзроўню помнікі дзелавога пісьменства, прававой думкі і культуры бел. і літоўскага народаў, з'явілася плеяда высокаадукаваных і таленавітых пісьменнікаў, зарадзіліся новыя віды і жанры (кніжная паэзія, рэфармацыйная публіцыстыка, гіст.-мемуарная л-ра, драматургія). Л-ра набыла большую публіцыстычнасць і сац. завостранасць, у ёй з'яўляліся творы, напісаныя з пазіцый рэнесансавага гуманізму, узмацняўся асабовы пачатак, зараджаліся індывід. стылі.

Чацвёртая кніга «Царстваў» Ф.Скарыны. Прага. 1518.

Этапнае значэнне ў гісторыі бел. л-ры і культуры ВКЛ мела дзейнасць бел. гуманіста-асветніка, заснавальніка ўсх.-слав. кнігадрукавання, пісьменніка і перакладчыка Ф.*Скарыны*. Дасканалы пераклад і высокамастацкае выданне Скарынам 23 кніг Бібліі (Прага, 1517–19), «Малой падарожнай кніжкі» і «Апостала» (Вільня, 1522–25), рацыяналістычна-асветніцкі дух яго каментарыяў, свецкі характар афармлення кніг садзейнічалі секулярызацыі і дэмакратызацыі л-ры ў Беларусі і Літве. Скарына быў пачынальнікам бел. вершаскладання і гімнаграфіі, ён давёў да высокай дасканаласці жанр прадмоў – зародкаў бел. літ.-знаўства і крытыкі, бел. філалогіі.

У эпоху Адраджэння ў ВКЛ ва ўмовах росту грамадска-паліт. і нац. самасвядомасці народаў узмацнілася цікавасць да мінулага. У 1-й пал. 16 ст. ўзнікла *«Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, у якой пададзена легендарная гісторыя ўзнікнення гэтай дзяржавы, сцвярджалася высакароднае паходжанне літоўскіх князёў і паноў (ад рымскіх патрыцыяў). Найвышэйшае дасягненне агульнадзярж. бел.-літоўскага летапісання – *Хроніка Быхаўца* (2-я чвэрць 16 ст.), напісаная ў форме гіст. аповесці і прысвечаная палітычнай гісторыі Беларусі і Літвы ад легендарных часоў да пач. 16 ст. У хроніках удасканальваліся прыёмы і формы белетрызацыі гісторыі, хоць у цэлым яны захавалі сярэдневяковы характар (ананімнасць, кампіляцыйнасць, сінкрэтызм, апісанне падзей па іх знешняй сувязі і інш.). Бел.-літоўскія летапісы і хронікі прыкметна паўплывалі на польскую хранаграфію 16–17 ст. Пераважна паводле гэтых твораў выклаў гісторыю ВКЛ М.*Стрыйкоўскі*, які доўгі час жыў, служыў і працаваў у Літве і Беларусі. Яго *«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсёй Русі»* (Каралявец, 1582) была першай друкаванай гістарыяграфічнай працай, у якой мінулае літоўскага і бел. народаў пададзена ў агульнаеўрап. кантэксце і ў сувязі з гісторыяй Польшчы і стараж. Русі.

Тытульны ліст кнігі «Песня песням» Ф.Скарыны. Прага. 1518.

Пачынальнікам рэнесансавай паэзіі ў ВКЛ быў М.*Гусоўскі* – паэт-лацініст, аўтар

прыклады з гісторыі і жыцця прыроды, горача адстойвае думку, што роднае слова з'яўляецца неадменнай умовай існавання нацыі. Прадмова Даўкшы – глыбокапатрыятычны помнік гуманіст. ідэй эпохі, узор высокага рытарычнага мастацтва. Важную ролю ў развіцці старалітоўскага пісьменства гэтага часу адыгралі К.*Сірвідас*, укладальнікі і перакладчыкі духоўных твораў М.Пяткявічус, С.Яўгеліс-Целега, С.Славачынскіс, Б.С.*Хілінскі*.



Біблія на літоўскай мове. Каралявец. 1735.





Ініцыялы з кнігі «Аповесць пра Скандэрбега». Берасце, 1569.

Феад.-каталіцкая рэакцыя, што пачалася ў ВКЛ у 1570-я г., надала л-ры іншы кірунак. Кнігадрукаванне і літ. дзейнасць правасл. брацтваў, публіцыстыка і палемічная л-ра 16–17 ст. з'яўляюцца агульным здабыткам бел. і ўкр. л-р. Многія выдатныя дзеячы культуры гэтага перыяду (М.*Сматрыцкі, Хрыстафор Філалет*, Л.*Зізаній* і С.*Зізаній*, С.Косаў), нягледзячы на ўваходжанне пасля Люблінскай уніі 1569 земляў Украіны ў склад Польскай Кароны, былі адначасова бел. і ўкр. пісьменнікамі. Асн. зместам іх публіцыстыкі стала палеміка вакол царкоўнай уніі. Важную ролю адыгралі ў той час брацтвы, якія садзейнічалі кансалідацыі патрыят. сіл бел. і ўкр. народаў у іх барацьбе супраць наступу каталіцкай царквы і асімілятарскай палітыкі Польшчы. У палеміцы ўдзельнічалі людзі розных класавых інтарэсаў, нац.-культ. і рэліг. арыентацыі, літ. густу і таленту; яна была вострай зброяй ідэалагічнай барацьбы, таму нямала твораў выйшла ананімна або пад псеўданімамі («Апокрысіс», «Перасцярога», «Унія», «Гармонія» і інш.). Непрымірымымі змагарамі за веру продкаў і нац. традыцыі былі *Лявонцій* Карповіч – яркі прадстаўнік аратарскай прозы пач. 17 ст. і *Афанасій Берасцейскі* – аўтар палемічна-публіцыстычнага «Дырыуша». Складальнікам першай грунтоўнай граматыкі царк.-слав. мовы быў Сматрыцкі, які ў розны час заўзята абараняў і праваслаўе («Фрынас»), і унію («Апалогія»). Лагер каталіцка-уніяцкіх палемістаў прадстаўлялі П.*Скарга* (аўтар «Казанняў сеймовых» і трактата «Пра адзінства Царквы Божае»), І.*Пацей* (аўтар публіцыстычных твораў на бел. і польск. мовах, прасякнутых духам кампрамісу з каталіцкай царквой). Багаслоўскія і палемічныя творы многіх укр. пісьменнікаў эпохі ранняга барока (І.Вішанскага, *Іова* Барэцкага, *Лазара* Барановіча, І.Галятоўскага, З.Капысценскага, *Пятра* Магілы, К.Сакавіча і інш.) былі вядомы і ў Беларусі і ўдзельнічалі ў шмат у чым агульным бел.-ўкр. літ. працэсе таго часу.

У непасрэднай сувязі з царк.-рэліг. палемікай у л-ры ВКЛ развіўся жанр пропаведзі (Карповіч, Пацей, Сматрыцкі, Сірвідас, Ё.*Брэткунас* і інш.). Грамадска-паліт. жыццё ў ВКЛ садзейнічала развіццю свецкага красамоўства. Найб. відным прадстаўніком бел. аратарскай прозы быў Сапега. Шырокае бытаванне атрымаў жанр прадмоў, якому спрыяў росквіт кнігадрукавання ў 2-й пал. 16–17 ст. З узнікненнем школьнага тэатра зараджаецца драматургія. Першыя яе спробы – інсцэніроўкі біблейскіх сюжэтаў. Паміж актамі школьных драм разыгрываліся камедыйныя сцэнкі – інтэрмедыі, паводле паходжання і характару напаўфальклорныя творы, прасякнутыя нар. гумарам. З імі звязана з'яўленне ў бел., укр. і літоўскай л-рах дэмакратычнага героя – прадстаўніка трэцяга саслоўя (студэнта, рамесніка, селяніна).

Новай з'явай у л-ры 16–1-й пал. 17 ст. была кніжная паэзія, пачатак якой паклалі яшчэ Скарына і Мажвідас. Яна вызначалася ідэйна-тэматычнай і жанрава-стылявой разнастайнасцю. Вяліся пошукі ў жанры паэмы, папулярнасцю карыстаўся жанр эпіграм – рытарычных пахвал, пададзеных у форме вершаваных надпісаў да гербаў мецэнатаў. Бытавалі таксама дэкламацыі, элегіі, сатыр. і духоўныя вершы, грамадз. лірыка, найлепшы ўзор якой у даўняй бел. паэзіі – верш Я.К.*Пашкевіча* «Польска квитнет лациною...». Некат. тагачасныя паэты ВКЛ пісалі на польскай (А.*Рымша*, Г.*Пельгрымоўскі*, Я.*Пратасовіч*, Т.*Яўлевіч*) і лац. мовах (Я.*Радван*, Д.*Набароўскі*, С.*Рысінскі* і інш.). Сярод лацінамоўных твораў 2-й пал. 16 ст. вылучаецца «Радзівіліяда» (Вільня, 1588) Радвана. У гэтай пісанай гекзаметрам (на ўзор «Энеіды» Вергілія) патрыятычнай паэме аўтар узвялічыў заслугі М.Радзівіла як палкаводца і палітыка, уславіў гераічныя подзвігі абаронцаў Айчыны. З твораў, напісаных па-польску, вылучаюцца ананімныя «Пратэй» (1564, Берасце, магчымы аўтар – Ц.*Базылік*) і «Лямант на смерць Рыгора Осціка» (Вільня, 1580). У «Пратэі» ў сатырычным асвятленні закранаюцца надзвычай

вершаў і паэм, у т. л. глыбокапатрыятычнай «Песні пра зубра» (Кракаў, 1523). З вял. мастацкай сілаю і любоўю паказана ў паэме прыгажосць прыроды роднага краю, апеты ратныя і мірныя справы, заняткі і звычаі беларусаў і літоўцаў, услаўлена іх гераічнае мінулае. У творы выявіўся рэнесансавы эстэтычны ідэал аўтара з яго верай у чалавека дзейнага, гарманічна развітога, духоўна і фізічна дасканалага. «Песня пра зубра» – першы ў бел. і літоўскай л-рах буйны вершаваны твор, першая песня пра «Літву», складзеная для зах.-еўрап. чытача.

На 1-ю пал. 16 ст. прыпадае зараджэнне пісьменства на літоўскай мове, якое пачалося ва Усх. Прусіі і мела пераважна рэліг. характар. Першыя пераклады рэліг. песнапенняў на літоўскую мову зрабілі дзеячы Рэфармацыі С.*Рапалёніс* і А.*Кульвец*. У 1547 у Караляўцы М.*Мажвідас* падрыхтаваў і выдаў па-літоўску «Простыя словы катэхізіса». Акрамя катэхізіса, кніга змяшчае і 1-ы літоўскі буквар («Танная і сціслая навука пісаць і чытаць») і пераклад 11 духоўных песень, якія ўтрымліваюць нямала гіст. і бытавых рэалій.

У 2-й пал. 16 ст. ў сувязі з актывізацыяй усяго грамадска-паліт. і культ. жыцця ВКЛ больш хутка развівалася і л-ра. Шмат у якіх бел., літоўскіх і ўкр. гарадах былі адкрыты друкарні і школы розных кірункаў (пратэстанцкія, праваслаўныя, каталіцкія), выдаваліся буквары, граматыкі, слоўнікі. Творы пісаліся і друкаваліся на бел., царк.-слав., літоўскай, польск. і лац. мовах. Найб. развіццё атрымала палемічная публіцыстыка.




Тытульны ліст «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі». М.Стрыйкоўскага. Каралявец. 1582.

У 1560–70-я г. л-ра развівалася пад моцным уплывам рэфармацыйных ідэй, што было абумоўлена бытаваннем на літ.-бел. землях рэліг. вальнадумства, гуманістычнага рацыяналізму, пранікненнем у ВКЛ розных плыняў зах.-еўрап. пратэстантызму (лютэранства, кальвінізму, антытрынітарызму). Прапаведніцкая і асветніцкая дзейнасць рэфарматараў па сутнасці мела антыфеад., раннебуржуазны характар і адыграла важную ролю ў абуджэнні грамадскай думкі, спрыяла пашырэнню ідэй рацыяналізму і ўмацаванню рэліг. верацярпімасці. Рэфармацыйная публіцыстыка ўзбагаціла ідэйны змест бел. і літоўскай л-р, іх тэматыку і праблематыку, жанры і стылі.

Рэфармацыя ў ВКЛ вылучыла плеяду публіцыстаў, сярод якіх найб. значныя С.*Будны*, В.*Цяпінскі*, А.*Волан*, *Міхалон Літвін* і А.*Ратундус*. Бліскучы палеміст, ідэолаг антытрынітарыяў ВКЛ Будны ўвайшоў у гісторыю слав. культуры як аўтар «Катэхізіса» (Нясвіж, 1562) з антыклерыкальнай прадмовай, публіцыстычных трактатаў, у т. л. «Пра свецкую ўладу» (1583), як перакладчык (на польск. мову) і адзін з заснавальнікаў філал. крытыкі Біблії ў Еўропе. Паслядоўнік скарынаўскіх традыцый Цяпінскі ўпершыню пераклаў на бел. мову «Евангелле» (1570-я г.), з патрыят. пазіцый абараняў родную мову і культуру, гнеўна асудзіў своекарыслівасць і рэнегацтва бел. духавенства і свецкіх феадалаў. Больш за 20 публіцыст. твораў апублікаваў на лац. і польск. мовах Волан, які з'едліва высмейваў у іх абскурантызм рэліг. фанатыкаў, адстойваў свабоду асобы. Шырока вядомы яго палемічныя выступленні супраць езуітаў; іх перавыдавалі ням. пратэстанты і франц. гугеноты, а каталіцкая царква занесла ў індэкс забароненых кніг. Сярод аўтараў, якія пісалі на літоўскія тэмы на лацінцы, асабліва вылучаецца Міхалон Літвін з яго трактатам «Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў» (1550, часткова надрук. ў 1615, Базель). Аўтар супастаўляе быт літвінскай шляхты з бытам падданых Маскоўскай Русі і татараў. Ён крытыкуе «вольнасці» літвінскай шляхты як крыніцу магчымай анархіі. Разам з тым Літвін захапляецца Кіевам і прыроднымі багаццямі Падняпроўя, падрабязна апісвае культ. і сац.-паліт. становішча Русі.




Старонка «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» А.Гваньіні. Кракаў. 1581.

На гэты ж час прыпадае зараджэнне літоўскамоўнага пісьменства на тэр. ВКЛ. Яго пачынальнікам быў М.*Даўкша*, які зрабіў дасканалы пераклад на літоўскую мову «Катэхізіса» Я.Лядэсмы (1595) і зб. прапаведзяў Я.Вуека «Пасціла каталіцкая» (1599). Акрамя лац. прысвячэння, «Пасціла» мае 2 прадмовы: адну на літоўскай, другую на польскай мовах. Асабліва прыкметная другая, у якой аўтар, падаючы

важныя пытанні грамадска-палітычнага і культ.-рэлігійнага жыцця Польшчы і ВКЛ, паказваецца, да якой бяды можа давесці дзяржаву неабдуманасць дзеянняў з боку шляхецкага стану. «Лямант на смерць Рыгора Осціка» на прыкладзе аднайменнага героя ўздымае не менш актуальныя пытанні шляхецкай здрады Радзіме і пакарання за гэтае злачынства з боку дзяржавы, грамадства і сям'і. «Дзесяцігадовая аповесць пра ваенныя справы… Крыштофа Радзівіла» (Вільня, 1585) паэта-панегірыста Рымшы, аўтара эпіграм на бел. мове і вершаванай «Храналогіі» (Астрог, 1581), – найбуйнейшы з створаных у той час на тэр. ВКЛ польскамоўных эпічных твораў, прысвечаны апісанню вайсковых выпраў К.Радзівіла на працягу 10 гадоў (1572–82). Важныя пытанні грамадска-паліт. жыцця, міждзярж. узаемаадносін ВКЛ і Расіі канца 16–пач. 17 ст. узнімаў у сваіх багатых зместам паэмах Пельгрымоўскі, сакратар пасольства Л.Сапегі ў Маскву ў 1600–01. Значнай з'явай у літ. жыцці было з'яўленне першай вершаванай энцыклапедыі «Вынаходнікі рэчаў» Пратасовіча (Вільня, 1608). Найб. значнае дасягненне бел. паэзіі таго часу – ананімная лірычная паэма *«Лямант на смерць Лявонція Карповіча»* (Вільня, 1620), напісаная па-беларуску ў стылі элегіі.




Старонка кнігі «Пэрэгрынацыя» М.К.Радзівіла Сіроткі – апісання падарожжа ў Святую зямлю, якое ён здзейсніў пасля пераходу з кальвінізму ў каталіцтва. Папулярная кніга ў Рэчы Паспалітай, шмат разоў перавыдавалася. Бранева, 1601.

Развіццё літоўскай паэзіі адбывалася пераважна ў рэліг. рэчышчы [зб. духоўных песень Брэткунаса, 1589; «Пасціла» Ё.Маркунаса, 1600 (пер. польск. кальвініcцкай «Пасцілы» М.Рэя); «Новая кніга песень» Д.*Клейна*, 1666 і інш.], хаця пэўнае развіццё зведалі жанры эпітафіі (Б.Пятравічус) і прысвячэння (С.Яўгеліс-Целега).У сярэдзіне 17 ст. пачаў літ. дзейнасць паэт, драматург і асветнік *Сімяон Полацкі*. Ён узбагаціў бел. паэзію новымі тэмамі і ідэямі, формамі і жанрамі, узняў сілабічнае вершаскладанне ўсх. славян на больш высокую ступень. У 16–1-й пал. 17 ст. актыўна развівалася і бел. проза свецкага кірунку. Характэрнай яе рысай была белетрызацыя гіст.-дакументальных дзелавых запісаў, што выявілася ўжо ў Хроніцы Быхаўца. У гэтым рэчышчы з'явіліся лісты Ф.*Кміты-Чарнабыльскага* (1573–74), напісаныя каларытнай моваю, перасыпанай нар. прымаўкамі. Працэс белетрызацыі і дэмакратызацыі бел. публіцыст. прозы прадаўжалі парадыйна-сатыр. *«Прамова Мялешкі»* (1-я пал. 17 ст.) і *«Ліст да Абуховіча»* (1655) – творы вял. грамадска-паліт. гучання, яркія і самабытныя.

Глыбокую трансфармацыю перажывала гіст.-дакументальная проза. Замест агульнадзярж. летапісаў і хронік узніклі новыя літ. жанры: мемуары (дыярыушы), мясц. летапісы і хранографы. У пач. 17 ст. навагародскі шляхціц Ф.*Еўлашоўскі* стварыў адзін з першых бел. дыярыушаў, у якім малюнкі жыцця і побыту бел. шляхты пададзены ў сувязі з біяграфіяй аўтара. Багатыя і цікавыя зместам напісаныя па-польску дыярыушы С.І.*Маскевіча* і Б.К.*Маскевіча*, у якіх занатаваны бурныя падзеі вайны з Расіяй у пач. 17 ст. і нац.-вызв. вайны бел. і укр. народаў сярэдзіны 17 ст. Шырокую вядомасць набыла сухая, аднак надзвычай працяглы час папулярная лац. «Гісторыя Літвы» (1650–69) А.*Каяловіча*. Мясцовым святаром з Магілёўшчыны складзены *Баркулабаўскі летапіс*, у якім апісаны важныя гіст. падзеі канца 16–пач. 17 ст., праўдзіва пададзены запамінальныя малюнкі цяжкага жыцця бел. вёскі таго часу. Яскравым прыкладам жанру хранографа была *«Вялікая хроніка»*, складзеная ў 17 ст. на падставе перакладзеных на бел. мову польскіх хронік М.Бельскага, Стрыйкоўскага, сярэдневяковых гіст. аповесцей і інш. крыніц.

Актывізавалася і перакладчыцкая дзейнасць, што сведчыла пра павелічэнне чытацкага попыту і ўзмацненне культ. узаемасувязей народаў ВКЛ з інш. народамі свету. Сярод перакладаў на бел. мову пачалі пераважаць творы свецкага характару, белетрыстычная проза: зб-кі дыдактычных навел («Вялікае зярцала», «Зорка прасветлая», «Рымскія дзяянні»), воінскія аповесці («Гісторыя пра Атылу», «Аповесць пра Скандэрбега»), рыцарскія раманы («Аповесць пра Трышчана», «Аповесць пра Баву»), прыгодніцкая л-ра («Гісторыя пра Апалона Цірскага»), але ніводны з бел. перакладаў не быў надрукаваны. У літоўскай л-ры пач. 17 ст. таксама з'яўляюцца перакладныя творы, першымі сярод іх сталі «Байкі Эзопа» ў перакладзе І.Шульцаса (1706, Каралявец), якія адначасова былі і першай свецкай кнігай на літоўскай мове. Адметнай рысай л-ры ВКЛ 16–17 ст. было павелічэнне польскамоўных перакладаў з зах.-еўрап. л-р. Пераважна гэта былі гістарыяграфічныя і біяграфічныя крыніцы па антычнай і сярэдневяковай



Тытульны ліст зб. «Вертаград многацветны» Сімяона Полацкага. 1681.

гісторыі, як, напр., «Жыццё Юрыя Кастрыёта» албанца М.Барлецій ў перакладзе берасцейскага друкара Ц.Базыліка (1569) або «Гісторыя іудзейскай вайны» І.Флавія (1617, Любча). Часам падобныя творы адвольна скарачаліся перакладчыкам або белетрызаваліся ў інтарэсах чытача. Так, Б.*Будны* да «Апафегматаў» (1614, Любча), апрацоўкі 80 анекдотаў з аднайм. твора Плутарха, дадаў шэраг польскіх, а «Гісторыя пра Тэагеніса і Харыклею» навагародскага шляхціца А.Захарэўскага (1588, б.м.) з'яўляецца пераробкай «Эфіопікі» Геліядора.

У цэлым л-ра ВКЛ эпохі контррэфармацыі развівалася ў рэчышчы барока. Характэрныя асаблівасці гэтага стылю прыкметны ўжо ў асобных творах панегірычнай паэзіі, драматургіі, палемічнай і аратарскай прозы канца 16–пач. 17 ст. Ідэйнамаст. прынцыпы барока, светаадчуванне той складанай эпохі найб. паслядоўна выявіліся ў філас.-рэліг. лірыцы. Дасягненню пэўнага адзінства творчых прынцыпаў л-ры садзейнічалі тэарэт. працы, напр., паэтыка М.К.*Сарбеўскага*.

У вельмі складаных умовах агульнага сац.-эканам. і грамадска-паліт. крызісу Рэчы Паспалітай, у складзе якой знаходзіліся Беларусь і Літва, разбуральных войнаў, напружанай ідэалаг. барацьбы і рэліг. канфрантацыі, узмацнення сац. і нац. ўціску, паланізацыі адбываўся працэс развіцця бел. і літоўскай л-р у пераходны перыяд (2-я пал. 17–1-я пал. 18 ст.). Адмірала старая эстэт. сістэма, занепадалі традыц. літ. жанры. Далейшая секулярызацыя і дэмакратызацыя, уплыў фальклору і інш. прывялі да ўзнікнення інтымнай лірыкі, парадыйнасатыр. і гумарыстычнай прозы, з'яўлення новых традыцый. Разам з тым далейшае развіццё атрымала гіст.-мемуарная л-ра, у стварэнні якой найб. ролю адыгралі прадстаўнікі шляхты. У канцы 17–1-й пал. 18 ст. Т.Суртам і Ю.Трубніцкім была напісана *Магілёўская хроніка*, выдатны помнік гар. летапісання Беларусі, каштоўная крыніца па гісторыі ВКЛ таго часу. Яркай з'явай стала творчасць драматурга і паэтэсы Ф.У.*Радзівіл*.

Ідэі Асветніцтва садзейнічалі пераасэнсаванню і пераадоленню ў др. пал. 18 ст. старых літ. традыцый, узмацненню новых эстэт. тэндэнцый, з'яўленню якасна новых маст. твораў, якія паклалі пачатак фарміраванню нац. бел. і літоўскай л-р на нар. мовах. Найб. яркімі і выдатнымі літ. помнікамі той эпохі на землях ВКЛ былі паэма К.*Данелайціса* «Поры года» і «Камедыя» К.*Марашэўскага*. Лацінамоўная творчасць паэта-асветніка М.Карыцкага, хоць і была значнай літ. з'явай свайго часу, аднак ужо не вызначала вядучыя тэндэнцыі ў станаўленні новых бел. і літоўскай л-р.




Кёльнскае выданне «Лірычных вершаў» М.К.Сарбеўскага. 1682.

*Літ.*: Історія української літератури. Т. 1. Давня література (XI–перша половина XVIII ст.). Київ, 1967; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. З стараж. часоў да канца XVIII ст. Мн., 1968; А н і ч э н к а У.В. Беларуска-ўкраінскія пісьмова-моўныя сувязі. Мн., 1969; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; История литовской литературы. Вильнюс, 1977; Д о р о ш к е в и ч В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы: Первая половина XVI в. Мн., 1979; У л а щ и к Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985; Л а п і н с к е н е А., М а л ь д з і с А. Перазовы сяброўскіх галасоў: Бел.-літоўскае літ. ўзаемадзеянне ад старажытнасці да нашага часу. Мн., 1988; К а в а л ё ў С.В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мн., 1993; Я г о ж. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 2002; Беларускія летапісы і хронікі. Мн., 1997; С а в е р ч а н к а І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі: Адраджэнне і ранняе барока. Мн., 1998; Мартинас Мажвидас и духовная культура Великого княжества Литовского XVI века. Вильнюс; М., 1999; Анталогія даўняй беларускай літаратуры: XI–першая палова XVIII стагоддзя. Мн., 2003.

***Алесь Бразгуноў, Вячаслаў Чамярыцкі.***

# мастацтва

**Архітэктура**

Манументальнае дойлідства ВКЛ у канцы 13 ст. набыло татальна абарончы характар. Абарончая сістэма многіх гарадоў са старажытнасці складалася з натуральных прыродных перашкод і штучных драўляных умацаванняў (вастраколаў, гародняў). Драўляныя сцены-гародні рубіліся ў некалькі вянкоў бярвён, засыпаліся для большай трываласці і пажарнай бяспекі зямлёю, завяршаліся баявымі галерэямі з 2-схільнымі дахамі. Вуглы паліганальных планаў драўляных крэпасцей, якія адпавядалі рэльефу мясцовасці, у адказных для абароны пунктах замацоўваліся прызматычнымі шмат'яруснымі вежамі з шатровымі дахамі. Вежы маглі быць рубленыя як «клеці» (квадратныя ці прамавугольныя ў плане – чацверыкі), як «круглікі» (8-гранныя ад асновы – васьмерыкі) альбо «васьмерыкі на чацверыках».

На мяжы 13–14 ст. з прычыны складаных знешніх ваенна-палітычных абставін асн. тыпам манументальнага будаўніцтва ў ВКЛ (побач з драўлянымі крэпасцямі) стаў мураваны замак – збудаванне з замкнутым унутраным дваром, абнесеным магутнымі вежамі і сценамі, якому ўласціва спалучэнне абарончых, жылых і прадстаўнічых функцый. Адпаведна сваёй павышанай капітальнасці і рэпрэзентатыўнасці замак звычайна займаў асн. месца ў горадабудаўнічай структуры гарадоў і мястэчак, якія мелі цалкам драўляную забудову. На зах. межах дзяржавы ў 14–пач. 15 ст. створаны абарончы пояс з шэрагу мураваных замкаў (Вільня, Коўна, Трокі, Меднікі, Крэва, Гародня, Ліда, Навагародак, Луцк, Камянец-Падольскі), якія мелі агульнадзярж. прызначэнне і з'яўляліся рэзідэнцыямі вял. князя. Паводле архітэктурнага вырашэння замкі ВКЛ падзяляюцца на 2 тыпы. Замкі ў Гародні, Навагародку і Вільні паступова сфарміраваліся на аснове больш ранніх дрэваземляных умацаванняў на натуральных узвышшах, вышынёю 30–40 м, мелі нерэгулярную паліганальную форму плана, якая адпавядала рэльефу мясцовасці. Напачатку ў іх былі пераважна драўляныя сцены-гародні і вежы, дапоўненыя адной магутнай мураванай вежай. На мяжы 15 ст. драўляныя ўмацаванні гэтых замкаў цалкам заменены на мураваныя. 2-і тып прадстаўляюць рэгулярныя замкі ў Крэве, Лідзе, Троках і Медніках, у

Фрагмент гравюры «Прыбыццё маскоўскага пасольства ў Гародню ў 1568».





Мірскі замак. Фотаздымак 1980-х г.

плане блізкія да квадрата, змураваныя накшталт рыцарскіх крыжацкіх замкаў на нізінным рэльефе з выкарыстаннем штучных насыпаў, валоў і равоў, з масіўнымі вежамі на вуглах.

Формы замкавых вежаў паўтаралі традыцыйныя архітэктурныя кампазіцыі чацверыкоў і васьмерыкоў драўляных крэпасцей і цыліндрычных мураваных вежаў, па большасці былі прызматычныя квадратныя ў плане (Меднікі, Крэва, Ліда), маглі быць таксама васьміграння ад асновы (Вільня), васьмярык на чацверыку (Навагародак, Мір, Любча) альбо цыліндрычныя (Гародня, Трокі, Коўна). Спалучэнне вежаў разнастайных форм надавала абліччу замкаў мастацкую адметнасць. Да замкавых сцен часта далучалася мураваная княжацкая камяніца (Вільня, Гародня, Трокі). Ярусы вежаў і жылыя памяшканні перакрываліся раманскімі крыжовымі альбо цыліндрычнымі з распалубкамі скляпеннямі, пазней гатычнымі нервюрнымі скляпеннямі зорчатага малюнка. Інтэр'еры аздабляліся фрэскавай размалёўкай, вітражамі, кафлянымі печамі. Унутры замкавага двара месціліся драўляныя службовыя пабудовы, стайні і г.д.

Перыяд абарончага дойлідства адметны будаўнічай тэхнікай з буйнапамернай «літоўскай» цэглы-пальчаткі і неапрацаванага прыроднага каменю (бут). Атрымала пашырэнне 3-слаёвая па вертыкалі тэхніка муроўкі («лусковая»). Вонкавыя і ўнутраная часткі сцен мураваліся з цэглы, а прастора паміж імі запаўнялася бутам і вапнавай рошчынай з дамешкам дробнага камення і бітай цэглы, дзеля большай таўшчыні і трываласці муроў. Верхнія часткі сцен, вуглы, скляпенні і адкосы праёмаў мураваліся цалкам з цэглы. Эстэтыка замкавага дойлідства абарончага перыяду ў магутнасці і велічы сцен і вежаў, у дасканаласці і надзейнасці фартыфікацыйных элементаў: барбаканаў, пад'ёмных мастоў, уязных брам, байніц і баявых галерэй, у мажорнай чырвона-белай паліхроміі, створанай спалучэннем адкрытай муроўкі сцен з атынкаванымі паўцыркульнымі арачнымі нішамі і інш. канструкцыйна-дэкаратыўнымі элементамі, якія мелі рысы гатычнага стылю. Усё гэта разам стварала непаўторнае мастацкае асяроддзе, сугучнае грамадскаму жыццю таго часу.

У 15–16 ст. драўляныя крэпасці-дзядзінцы стараж. гарадоў паступова трансфармаваліся і перайменоўваліся ў замкі (Орша, Рагачоў, Мазыр, Рэчыца і інш.). У вял. гарадах узнікла некалькі злучаных паміж сабою замкаў, звычайна Верхні (Высокі) і Ніжні (Дольны), назвы якіх адлюстроўвалі ўмовы іх размяшчэння ці гіст. тапаніміку (Вільня, Віцебск, Гародня, Магілёў, Менск, Полацк і інш.). Найб. развітыя абарончыя сістэмы гарадоў уключалі рамесніцкія пасады. Пашырылася будаўніцтва прыватнаўласніцкіх драўляных і мураваных замкаў (Іказнь, Геранёны, Любча, Радашковічы), якія працягвалі будаўнічыя традыцыі вялікакняжацкіх замкаў папярэдняга перыяду. Сваёй завершанасці і дасканаласці абарончае дойлідства ВКЛ дасягнула ў помніку сусветнага значэння – Мірскім замку.



Сынковіцкая царква. Канец 15 – пач. 16 ст.

У сферы мураванага хрысціянскага храмабудаўніцтва ВКЛ у 13–14 ст. адбываўся колькасны і якасны заняпад, страчваліся традыцыі полацкай і гарадзенскай школ дойлідства стараж.-рус. перыяду (Верхняя царква ў Гародні, царква на дзядзінцы ў Навагародку). Аднак паводле гіст. крыніц, працягвалася актыўнае будаўніцтва драўляных цэркваў, якія захоўвалі прыёмы мясцовага народнага дойлідства. Ужо ў пач. 13 ст. нямецкімі ганзейскімі купцамі пабудаваны першыя каталіцкія храмы ў Полацку і Смаленску, відаць, мураваныя, якія выкарыстоўваліся таксама для захоўвання тавараў. Яшчэ да хрышчэння Літвы ў 1387 паводле каталіцкага абраду ўзведзены мураваны гатычны касцёл св. Мікалая ў Вільні. Да канца 14 ст. на тэр. ВКЛ заснавана 6 касцёлаў, у 15 ст. – яшчэ 50, сярод якіх пераважалі драўляныя. У 15–16 ст. мураваныя касцёлы ў стылі готыкі ўзведзены ў Вільні (бернардзінцаў і св. Ганны), Коўне (Вітаўта і св. Георгія), Уселюбе, Ішкалдзі, Сапежышках, Гнезне, Геранёнах, якія мелі нязначна выяўленыя абарончыя рысы. Паводле архітэктурнага вырашэння гэта аднанефавыя бязвежавыя ці аднавежавыя храмы з адной больш нізкай алтарнай апсідай і адносна тонкімі сценамі, умацаванымі контрфорсамі. У нешматлікіх мураваных храмах 15–16 ст., акрамя богаслужэнняў, праводзіліся соймікі, цэхавыя сходкі раместнікаў, навук. дыспуты і тэатральныя прадстаўленні.

Пранікненне каталіцтва прыўнесла ў храмабудаўніцтва ВКЛ элементы зах.-еўрап. готыкі (нервюрныя, зорчатыя і сотавыя скляпенні, стральчатыя аркі, контрфорсы), якія спалучыліся з традыцыямі правасл. візантызму, што надало сакральнаму дойлідству таго часу мастацкую самабытнасць. Сусветна вядомыя мураваныя правасл. цэрквы ВКЛ, пабудаваныя ў канцы 15–1-й пал. 16 ст., спалучалі планавую структуру візантыйска-рус. крыжова-купальнага храма з архітэктурнымі формамі цаглянай готыкі, фартыфікацыйнымі элементамі мясцовага замкавага дойлідства і сімволікай нар. мастацтва (Полацкі Сафійскі сабор, Дабравешчанскі сабор Супрасльскага манастыра, Мікалаеўская, Троіцкая і Прачысценская цэрквы ў Вільні, Сынковіцкая Міхайлаўская царква, Мураванкаўская царква Раства Багародзіцы). У мастацтвазнаўстве гэты гіст.-культурны феномен вызначаецца як бел. готыка. Правасл. цэрквы-крэпасці мелі зальную 4-слуповую 3-нефавую структуру з роўнай вышынёю ўсіх нефаў, перакрытых нервюрнымі скляпеннямі, якія стваралі вытанчаны карункавы матыў. Прамавугольны аб'ём, у плане блізкі да квадрата, на вуглах фланкіраваны 4 цыліндрычнымі баявымі вежамі з вітымі ўсходамі і некалькімі ўзроўнямі байніц. Над скляпеннямі пад высокім клінападобным крокенным дахам знаходзілася памяшканне для абаронцаў з сістэмамі блізкага і далёкага бою (машыкулі, байніцы). Фартыфікацыйныя і канструкцыйныя элементы ўдала спалучаліся з дэкаратыўна-сімвалічнымі формамі рамана-візантыйскага паходжання: аркатурнымі паясамі, атынкаванымі паўцыркульнымі арачнымі нішамі, стральчатымі амбразурамі акон. Асн. дэкаратыўны акцэнт рабіўся на шчыце гал. фасада, што ўвасабляў ідэю нябеснага заступніцтва. Колькасць апсід эвалюцыянавала ад трох, кананічных для візант.-рус. правасл. цэркваў, да адной вял. алтарнай апсіды, характэрнай для гатычных касцёлаў. Тэхніка гатычнай муроўкі ў сакральным дойлідстве адметная ўжываннем лякальнай цэглы і традыцыйнай чырв.-белай паліхроміі. У дэкоры шэрагу гатычных храмаў выкарыстаны таксама геаметрычны арнамент з цёмна-чырвонай перапаленай цэглы і аркатурныя паясы са стральчатых арачак (Навагародская Барысаглебская царква, Святадухаўская царква ў Кодані).



Мураванкаўская царква. Пач. 16 ст.

У 1-й пал. 16 ст. ў развіцці манументальнага дойлідства і горадабудаўніцтва ВКЛ пачаўся якасна новы этап, азначаны пашырэннем ідэй еўрап. рэнесансу. Пачатак яму паклала эканам. і мецэнацкая дзейнасць каралевы Боны Сфорца. Развіццё рамёстваў, павелічэнне колькасці насельніцтва ў гарадах, наданне ім самакіравання на аснове магдэбургскага права спрыялі пашырэнню іх тэрыторый і ўскладненню планіровачнай



Касцёл Раства Дзевы Марыі ў Шылуве. 1760–86.

структуры. Побач з феад. замкам набылі значэнне гандлёвая плошча, на якой ставіліся культавыя будынкі розных канфесій, ратушы, крамы, корчмы, у атачэнні найб. рэпрэзентатыўнага жылля цэхавых рамеснікаў і гандляроў з суцэльным фронтам забудовы і арачнымі праездамі ва ўнутр двароў (Ратушная плошча ў Коўне). Забудова гарадоў і мястэчак была амаль цалкам драўляная, зрэдку драўляна-мураваная і фахверкавага тыпу. Як і раней, значную частку забудовы абкружалі гар. ўмацаванні, на перакрыжаванні якіх з асн. гандлёвымі шляхамі ставілі абарончыя брамы і мытні. У 1-й пал. 16 ст. ў Вільні ў стылі італьянскага рэнесансу мадэрнізаваны Ніжні замак, збудаваны новыя гар. ўмацаванні (сярод іх Вострая брама). Выдатным помнікам еўрап. рэнесансу з'яўляецца капліца св. Казіміра (1534–1557) кафедральнага касцёла ў Вільні. У 2-й пал. 16 ст. на ўзор італьянскіх рэнесансавых палацца пабудаваны 3-павярховыя карпусы з адкрытымі арачнымі галерэямі вакол гал. унутраных двароў ун-та і алюміната (інтэрната для студэнтаў) у Вільні. Пры каралю Стафане Баторыю ў формах рэнесансу італьянскімі архітэктарамі перабудаваны Стары замак у Гародні, пабудаваны калегіум езуітаў у Нясвіжы. Адметнай рысай мясц. архітэктурнага рэнесансу лічыцца дэкаратыўна-абарончы атык.

З сярэдзіны 16 ст. ў архітэктурна-планіровачнай структуры феад. прыватнаўласніцкіх мястэчак пашырылася перайманне рэнесансавых узораў «ідэальных» гарадоў (Нясвіж, Стары Быхаў, Слуцк). Увядзенне ў абарончае будаўніцтва навейшых зах.-еўрап. фартыфікацыйных сістэм спрыяла трансфармацыі замкаў у палацава-замкавыя комплексы, падзелу іх ваенных і цывільных функцый (Нясвіж, Біржы, Кейданы, Ляхавічы, Заслаўе). Мясцовае рэпрэзентатыўнае мураванае жыллё пачало вызначацца як палац (ад італьянскага palazzo). Архітэктура палацаў набывала больш разнастайныя кампазіцыі з адкрытымі аркаднымі галерэямі і лоджыямі (Рагачоўскі палац). Атрымалі пашырэнне тыпы палаца з кампактнай цэнтрычна-восевай планіроўкай і вуглавымі вежамі (Гайцюнішскі дом-крэпасць, палац Сапегаў у Ружанах) і П-падобнай кампазіцыі з фігурнымі франтонамі на тарцах (палацы Ходкевічаў у Ляхавічах, Масальскіх у Коўне). Праз дзейнасць нідэрландскіх архітэктараў і інжынераў-фартыфікатараў узмацніўся ўплыў паўн. рэнесансу (Быхаў, Гальшаны, Смаляны, Панёмань). З пашырэннем рэфармацыйнага руху пачалося актыўнае будаўніцтва пратэстанцкіх храмаў. У 2-й пал. 16–пач. 17 ст. па фундацыях магнатаў-пратэстантаў пабудаваны мураваныя кальвінскія зборы ў Заслаўі, Рыконтах, Смаргоні, Кухцічах, Жодзішках, Асташыне, Койданаве, Замосці. Адметнасцю архітэктуры рэфармацкіх храмаў ВКЛ з'яўляецца кампактнасць зальнай 1-нефавай структуры, адсутнасць у большасці з іх алтарнай апсіды і ўстойлівыя рысы мясцовай рэнесансавай стылістыкі (цыліндрычныя скляпенні, абаронча-дэкаратыўны атык), што супрацьстаяла пашырэнню новага стылю *барока*. Рысы мясцовага абарончага дойлідства і рэнесансу ўласцівы шматлікім мураваным сінагогам ВКЛ (Быхаў, Вільня, Пінск, Навагародак, Слонім). Кампактныя квадратныя ў плане будынкі сінагог 4 слупамі падзяляліся на 9 частак, перакрытых крыжовымі скляпеннямі, і завяршаліся дэкаратыўна-абарончымі рэнесансавымі атыкамі.



Касцёл Дабравешчання бернардзінскага кляштара ў Крэцінзе. 1610–17.

З'яўленне і пашырэнне архітэктурна-мастацкай сістэмы барока ў Еўропе ідэалагічна звязана з пачаткам *контррэфармацыі*. Першы узор архітэктуры барока ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай – Нясвіжскі касцёл езуітаў (1587–93). Пашырэнню барока ў ВКЛ спрыяла актыўная мецэнацкая дзейнасць М.К.Радзівіла Сіроткі і будаўніцтва ім значнай колькасці касцёлаў (езуітаў, бенедыкцінак, бернардзінцаў, св.Міхаіла ў Нясвіжы, Чарнаўчыцкі Троіцкі касцёл,



Мірскі Мікалаеўскі касцёл, Навасвержанскі Петрапаўлаўскі касцёл), а ўслед за ім інш. буйных магнатаў ВКЛ Сапегаў, Слушкаў, Пацаў, Сангушкаў, Кішкаў, Зяновічаў. Сакральнае дойлідства ВКЛ у 1-й пал. 17 ст. вызначалася спалучэннем готыка-рэнесансавых і барочных форм (Гарадзенскі фарны касцёл, касцёлы св.Міхаіла ў Вільні, св. Пятра і Паўла ў Шаўляі, Ружанскі Троіцкі касцёл). У перыяд ранняга барока (канец 16–1-я пал. 17 ст.) у культавай архітэктуры розных канфесій атрымаў пашырэнне тып 3-нефавай базілікі з трансептам альбо без яго, з бязвежавым альбо 2-вежавым фасадам, аздобленым ордэрнай пластыкай (Гарадзенскі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Менская Петрапаўлаўская царква, Богаяўленскі сабор у Магілёве, уніяцкі Жыровіцкі Успенскі сабор). Пасля войнаў з Расіяй і Швецыяй сярэдзіны 17 ст. мураванае правасл. храмабудаўніцтва значна скарацілася (Магілёўская Мікалаеўская царква), а пратэстанцкае вынішчана зусім.

У перыяд сталага барока (2-я пал. 17 ст.–1-я трэць 18 ст.) разам з пашырэннем ідэалогіі шляхецкага сарматызму з'яўляецца шэраг мураваных касцёлаў, архітэктура якіх вызначаецца нац. адметнасцю (касцёл Пятра і Паўла канонікаў латэранскіх на Антокалі ў Вільні, 1668–1685; Міхалішскі касцёл аўгусцінцаў, Клецкі касцёл дамініканцаў, Засвірскі касцёл кармелітаў, Навагародскі фарны касцёл). На працягу 17–18 ст. асабліва актыўнае мураванае храмабудаўніцтва вялося каталіцкімі ордэнамі езуітаў, дамініканцаў, бернардзінцаў, францысканцаў, кармелітаў, кожны з якіх меў на тэр. ВКЛ не менш як 20 велічных мураваных касцельна-кляштарных ансамбляў – выдатных узораў сусветнага стылю барока ў творчай нац. інтэрпрэтацыі (касцёлы езуітаў св. Казіміра і св. Яна, дамініканцаў Св. Духа і св. Якуба, кармелітаў св. Тэрэзы і Усіх святых у Вільні, касцёлы шматлікіх каталіцкіх ордэнаў у Гародні, Полацку, Менску, Пінску, Магілёве, Оршы і інш.). У 2-й трэці 18 ст. склаліся самабытныя рысы позняга нац. барока, названага ў мастацтвазнаўстве віленскім, для якога характэрны своеасаблівы прапарцыянальны лад і сілуэт збудаванняў з 2 шмат'яруснымі вежамі тэлескапічнай будовы на гал. фасадзе, найбагацейшая пластычная распрацоўка фасадаў і інтэр'ераў з элементамі ракако (касцёлы візітак, бенедыкцінцаў, місіянераў у Вільні, кармелітаў у Глыбокім, св.Андрэя ў Слоніме, камедулаў у Пажаях пад Коўнам). Стылістычныя прыёмы віленскага барока асабліва яскрава выявіліся ва уніяцкім храмабудаўніцтве на аснове вяртання да раннехрысціянскай сімволікі (Полацкі Сафійскі сабор, уніяцкія цэрквы ў Беразвеччы, Быцені, Барунах, Вільні, Вольна, Гародні, Жыровічах, Оршы, Віцебску, Талачыне) і адбіліся ў архітэктуры нешматлікіх мураваных правасл. храмаў таго часу (Магілёўская Спаса-Праабражэнская царква).



Касцёл бязгрэшнага зачацця Дзевы Марыі бенедыкцінскага кляштара ў Крожах. 1757–63.

Драўляныя храмы ВКЛ усіх хрысціянскіх канфесій паводле архітэктанічнай кампазіцыі падзяляюцца на 2 групы: клецкія і крыжовыя з рознай колькасцю зрубаў, пастаўленых па адной падоўжнай восі ці па ўзаемна перпендыкулярных восях. Характэрнай рысай з'яўляецца роўная вышыня зрубаў і самастойнасць кампазіцыі дахаў. Найб. архаічныя драўляныя цэрквы нагадвалі простыя сял. хаты з вальмавымі дахамі, увянчанымі галоўкамі з крыжамі. У готыка-рэнесансавы перыяд пашырыўся тып 3-зрубнага клецкага храма з вежай над бабінцам, які захаваўся і пазней (цэрквы ў Здзітаве, Дастоеве, Гарадной). У сакральным драўляным дойлідстве канца 17–18 ст. адбываецца перайманне форм манументальнай мураванай архітэктуры барока. Набывае пашырэнне 2-зрубны клецкі тып храма з бязвежавым ці 2-вежавым фасадам (цэрквы ў Вавулічах, Бездзежы, Валавелі, касцёлы ў Дудах, Лявонпалі, Сталмужы), імітуюцца формы базілікі (царква ў Сцяпанках, касцёл у Цімкавічах). Традыцыі мясц. нар. дойлідства ўвасаблялі 3-зрубныя клецкія храмы з трыма пірамідальнымі вярхамі (цэрквы ў Давыд-Гарадку, Сінкевічах, Олтушы). Пад уплывам эстэтыкі барока формы пакрыцця храмаўператварыліся ў складаныя шмат'ярусныя кампазіцыі (Міхайлаўская царква і Троіцкі касцёл езуітаў у Слуцку, сабор уніяцкага Лешчанскага манастыра пад Пінскам). Крыжовыя 4– і 5-зрубныя саборы з купалам на сяродкрыжжы і планам у выглядзе грэчаскага крыжа, што выяўляла іх правасл. прыналежнасць, будавалі ў 17–18 ст. пераважна ва ўсх. ваяводствах ВКЛ (Богаяўленскі сабор Аршанскага Куцеінскага манастыра, Святадухаўскі сабор Мсціслаўскага Тупічэўскага манастыра, Троіцкі сабор Віцебскага Маркавага манастыра, Ільінская і



Кафедральны касцёл Антонія Падуанскага ў Цельшах. 1762–65.

Троіцкая цэрквы ў Віцебску і інш.). Планам 4-зрубавых касцёлаў надавалася форма лацінскага крыжа (касцёл у Сядах). Драўляныя сінагогі 18 ст., якія будаваліся мясц. майстрамі-цеслярамі, захоўвалі архітэктанічную блізкасць да 9-польных мураваных сінагог, мелі квадратныя ў плане аб'ёмы з высокімі пластычнымі дахамі ў стылі позняга барока (Воўпа, Лунна, Гародня).

Горадабудаўнічыя і мастацкія прыёмы барока – ансамблевасць, прасторавая разгорнутасць і дынамічнасць кампазіцыі, кантрасты маштабаў і рытмаў, маляўнічасць абрысаў – знайшлі ўвасабленне у грамадзянскай архітэктуры ВКЛ. Этапы станаўлення барока прасочваюцца ў архітэктуры мураваных і драўляных ратуш, дзе традыц. для сярэдневякоўя размяшчэнне гадзіннікавай вежы на вузкім тарцовым фасадзе саступае месца яе франтальнаму размяшчэнню, адначасова адбываецца ўзбагачэнне маляўнічасці сілуэта (Нясвіж, Магілёў, Коўна, Віцебск, Слуцк). Для цэнтраў гарадоў і мястэчак 2-й пал. 18 ст. характэрна комплексная ансамблевая забудова (Нясвіж, Варняны, Іўе, Навагародак, Паставы, Гарадніца пад Гародняй) з акцэнтацыяй фасадных кампазіцый рэпрэзентатыўных свецкіх і культавых збудаванняў, дамоў рамеснікаў і гандляроў.

Асн. прынцыпамі палацавай архітэктуры ВКЛ перыяду сталага і позняга барока, а затым і барочнага класіцызму, які атрымаў пашырэнне пад уплывам ідэй французскага Асветніцтва, былі адкрытасць і сіметрычнасць кампазіцыі, анфіладнасць унутранай планіроўкі. Гал. палацавы корпус звычайна меў вестыбюль з прасторнай лесвіцай і парадныя залы, па баках анфілады жылых пакояў і кабінетаў, якія часта размяшчаліся ў вуглавых аб'ёмах-алькежах (Дзятлаўскі палац). Для стварэння больш развітой шматпланавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі да гал. корпуса палаца разнастайнымі прыёмамі далучалі сіметрычныя бакавыя флігелі. Для дэкаратыўнага вырашэння фасадаў характэрна складаная групоўка архітэктурнага ордэра, вытанчаная 2-колерная паліхромія, выкарыстанне рустыкі і стукавай лепкі. Інтэр'еры ўпрыгожваліся лепкай з пазалотай, фрэскавымі размалёўкамі, дэкаратыўнымі тканінамі і карцінамі на міфалагічныя сюжэты, кафлянымі печамі і камінамі, мэбляй, вырабленымі на мясцовых мануфактурах (палацы Пацаў у Вільні і Гародні, Новы каралеўскі палац у Гародні, Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс Радзівілаў, палацы Сапегаў у Вільні і Ружанах, Валовічаў у Свяцку, Агінскіх у Слоніме). Палацы размяшчаліся звычайна паміж парадным дваром і паркам, гал. алея якога падкрэслівала вось кампазіцыі сядзібнага комплексу і завяршалася манументальнай уязной брамай ці капліцай (сядзібы ў Гейстунах, Скоках, Варацэвічах, Станіславове). У 18 ст. ў ВКЛ пачало бурна развівацца садова-паркавае мастацтва, створана значная колькасць рэгулярных паркаў з геаметрычнай сеткай алей і баскетаў, тэрасамі і штучнымі вадаёмамі, агульная кампазіцыя якіх часам мела сімвалічнае значэнне, адлюстроўвала каляндарныя цыклы, будову сусвету і г.д. (палацы ў Шчорсах, Ганульце). З падзеламі Рэчы Паспалітай стылістыку барочнага класіцызму ў сакральным, палацавым і грамадз. дойлідстве на землях ВКЛ выцеснілі маст. прынцыпы рус. класіцызму.



Полацкі Сафійскі сабор. 11–18 ст. Выгляд з боку апсіды.

*Літ.*: Szyszko-Bohusz A. Warowne zabytki architektury kościelnej w Polsce i na Litwie. Wilno, 1915; Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928; Morelowski M. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyki do neoklasicyzmu. Wilno, 1938–39; Rewieńska W. Miasta i miasteczki w pólnocno-wschodniej Polsce. Wilno, 1938; Егоров Ю.А. Градостроительство Белоруссии. М., 1954; Всеобщая история архитектуры в 12 т. Т. 6. Архитектура России, Украины и Белоруссии. XIV – первая половина XIX вв. М., 1968; Ткачоў М.А.

Замкі Беларусі (XIII–XVIII ст.). Мн., 1977; Я г о ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978; Я к і м о в і ч Ю.А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся XVII–XIX стст. Мн., 1978; Я г о ж. Зодчество Белоруссии XVI–середины XVII в. Мн., 1991; С е р г а ч е в С.А. Деревянная архитектура Белоруссии XVI–XIX вв. Мн., 1984; Ч а н т у- р и я В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. 3 изд. Мн., 1985; Vilniaus architektūra. Vilnius, 1985; Памятники искусства Советского Союза: Белоруссия, Литва, Латвия, Эстония. М., Лейпциг, 1986; Lietuvos architektūros istorija. T. 1–2. Vilnius, 1987–94; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв. Мн., 1988; С л ю н ь к о в а И.Н. Архитектура городов Верхнего Приднепровья XVII–середины XIX в. Мн., 1992; Я е ж. Монастыри восточной и западной традиций: Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002; К у ш н я р э в і ч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст. Мн., 1993; Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995; J a n k e v i č i e n ė A. Lietuvos medinė sakralinė architektūra. Kaunas, 1998; Г а б р у с ь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001; Страчаная спадчына. 2 выд. 2003.

*Тамара Габрусь.*

**Іканапіс і алтарны жывапіс**

На працягу 13–15 ст. развіццё іканапісу ў ВКЛ адбывалася на глебе візантыйскага і стараж.-рус. мастацтва. На жаль, іканапісная спадчына гэтага перыяду амаль поўнасцю страчана. Захаваліся унікальныя помнікі «візантыйскага» перыяду: «Адзігітрыя» з Дарагабужа на Валыні (13 ст.), маларыцкае «Замілаванне» афінскага майстра Ніколаса Ламбудзіса, «Блакітнае Успенне» з Менска і «Пакроў» з Рэчыцы на Валыні (усе 15 ст.). Асн. вобразам Маці Божай была «Адзігітрыя» смаленскага тыпу (абразы з Дубянца і Слуцка), а ў каталіцкім касцёле – «Маці Божая Снежная». Пры кіеўскім мітрапаліце Кіпрыяне на ўсх.-слав. землях з'явіўся іканаграфічны тып «Маці Божая Ціхвінская» («Іерусалімская»), да якога належаць «Віленская Адзігітрыя», «Адзігітрыі» з Пінска пач. 16 ст. і Здзітава (Бярэсця) канца 16 ст. У здзітаўскім абразе прыкметны ўжо ўплыў рэнесансавага мастацтва на сярэдневяковую правасл. іканаграфію, што і стала пачаткам бел. школы іканапісу. Пры захаванні кананічнай кампазіцыі высвятляецца каларыт твараў, вобразы надзяляюцца індывідуальнасцю і аб'ёмнасцю. Абразы малююцца ў змешанай, тэмперна-алейнай тэхніцы, а на фоне з'яўляецца раслінны арнамент, гравіраваны па ляўкасе. Бел. школа іканапісу фарміруецца на мяжы 16–17 ст. ва ўмовах імклівых перамен у грамадска-культ. жыцці і кантактаў з Зах. Еўропай, найперш з Італіяй. Разам з тым некат. творы сведчаць аб трываласці сувязей з правасл. Усходам («Спас» 1593 з Дубровіцы італа-крыцкай школы, фундаваны Ганнай Гальшанскай).



Абраз Маці Божай. 16 ст. Старыя Трокі.



Абраз Багародзіцы. 17 ст. Вільня(?)

Пераходны характар мае цудатворны абраз «Маці Божая Менская» і «Хрыстос Уседзяржыцель» з Быценя, на якім яшчэ ёсць каўчэг, графіка адзенняў архаічная, але ў твары Ісуса відаць зах. («уніяцкія») рысы, фон аздоблены рэгулярным познарэнесансавым арнаментам, манаграмы на німбе ўстаўлены ў картушы, запазычаныя з графікі кірылічных старадрукаў. Арганічна спалучаны сярэдневяковая іканаграфія і бел. іканапіс новага часу ў знакамітым абразе св. Параскевы са Случчыны.

Абразы 1-й пал. 17 ст. вылучаюцца разнастайнасцю маст. адметнасцей пры захаванні іканапіснай традыцыі. Аптымізм, светлы настрой, духоўная ўзнёсласць, вера ў вышэйшую справядлівасць характэрны для іканапісу часоў Уладзіслава IV, якія можна разглядаць як своеасаблівы рэнесанс у бел. іканапісе: «Св. Параскева» (1642) з-пад Мастоў, «Замілаванне» (1644), «Нараджэнне Багародзіцы», «Пакроў», «Праабражэнне» і «Успенне» (1648–50) з Берасцейшчыны, «Нара-





Абраз Параскевы. Сярэдзіна – 2-я пал. 16 ст.

джэнне Багародзіцы» (1649) з Магілёва. Ім уласцівы насычаны яркі каларыт, разгорнутая кампазіцыя, замілаванне мастака сваімі персанажамі і дэталямі навакольнага жыцця ў евангельскіх падзеях, дэкаратыўны раслінны арнамент фону. «Барочны» свабодны жывапіс «Спаса» і «Маці Божай» (1640) з Жыткавіч нечакана ранні для Палесся. Нягледзячы на жахлівыя страты вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67, іканапіс 2-й пал. 17 ст. цалкам працягвае дасягненні перадваен. перыяду: «Успенне» з Крычава, «Тройца» з Дастоева, «Сашэсце ў пекла» (1678). Сапраўднымі шэдэўрамі бел. школы іканапісу з'яўляюцца цудатворная «Маці Божая Баркалабаўская» (да 1659) і бездзежскія абразы: «Пакутніца Параскева з жыціем» (1659) і «Уваскрэсенне – Сыходжанне ў пекла». У некат. творах адчуваецца плённы ўплыў жывапісу барока («Сашэсце ў пекла» з Дзісны). Вядучым мастацкім цэнтрам становіцца Магілёў, дзе склалася рэгіянальная школа іканапісу.

Іканапіс 18 ст. вылучаецца мастацкай разнастайнасцю, часам дэмакратызмам вобразаў, скіраванасцю да шырокіх сац. слаёў. Пры ўсёй аўтарскай самастойнасці творы характарызуе рост дэкаратыўнасці і экспрэсіі фігур пад уплывам барока. Высокі ўзровень магілёўскай школы дэманструюць басценавіцкія абразы, «Дэісус», «Нараджэнне Хрыста» з Баркалабаўскага манастыра. Да сярэдзіны 18 ст. належыць значная колькасць абразоў, выкананых мастакамі, якія засвоілі тагачасныя маст. стылі (Томаш Міхальскі, Нікадзім Прачыцкі). Асобную плынь утварае познабарочны прымітыў з уніяцкіх цэркваў, у якім прастата жывапісу і недахоп прафес. школы кампенсуюцца наіўным рэалізмам і экспрэсіяй (латыгаўскія абразы). Познауніяцкі жывапіс амаль да сярэдзіны 19 ст. захоўваў традыц. рысы.



Аўраамій і Меркурый Смаленскія. 1723–28.

З канца 14 ст. ВКЛ стала рэгіёнам узаемадзеяння вял. хрысціянскіх культур Усходу і Захаду. Вядома, што ў 15–16 ст. у касцёлах былі распаўсюджаны створкавыя жывапісныя алтары. Узорам рэнесансу ў жывапісе Беларусі з'яўляецца алтарны абраз «Пакланенне вешчуноў» 1-й чвэрці 16 ст. з Дрысвятаў, які выяўляе сувязь з паўн.-ням. рэнесансам. Пачатковы перыяд контррэфармацыі адзначаны актыўнасцю каталіцкіх місіянерскіх ордэнаў. Яны сталі праваднікамі позняга рэнесансу і барока, якія накладваліся на сярэдневяковую тэмперную тэхніку іканапісу на драўлянай аснове: «Дабравешчанне» з Нясвіжа, «Маці Божая Вастрабрамская», «Маці Божая Троцкая» (2-я чвэрць 17 ст.). З сярэдзіны 17 ст. алтарныя абразы на палатне набліжаюцца да еўрап. маст. стыляў: маньерызму – «Мадонна з дзіцем» з Іўеўскага р-на, ранняга барока – «Маці Божая Бялыніцкая» з-пад Нясвіжа, «Мадонна ў вянку» з Докшыц нагадвае паслядоўнікаў Рубенса. Шматпланавы алтарны жывапіс 18 ст., іканаграфічна блізкі да графікі і жывапісу каталіцкіх краін Еўропы, развіваецца ў кірунку сталага барока рознага ўзроўню.



*Літ.*: Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV–XVIII стагоддзяў у зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Мн., 1986; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1–2. Мн., 1987–88; Іканапіс Беларусі 15–18 стагоддзяў. Мн., 1992; Іканапіс Заходняга Палесся: 16–19 стст. Мн., 2002; Я р а ш э в і ч А. «Маці Божая Снежная» ў Беларусі. Мн., 2003; Жывапіс барока Беларусі. Мн., 2003.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Партрэт**

Першыя ўзоры партрэтных адлюстраванняў з'явіліся ў бел. мастацтве пад уплывам візантыйскай традыцыі: выявы тураўскага кн. Яраполка, яго маці Гертруды і жонкі Ірыны ў «Кодэксе Гертруды» (паміж 1078 і 1087), прасапаграфіі – вобразы асоб, прадстаўленых апецы нябесных патронаў; *партрэты данатарскія* і ктытарскія выявы (Альгерда і Ульяны ў Віцебску). На ранняй стадыі развіцця жанру (выявы Ягайлы ў замкавай капліцы ў Любліне, Вітаўта ў фрэсках Трокскага замка) гал. быў саслоўна-рэпрэзентатыўны і сац.-статусны пачатак, а не псіхалагічна-асабовы. Партрэты ствараліся ў асяроддзі княжацкай эліты, выконвалі дыпламат. і прадстаўнічыя функцыі (высылка выявы вял. кн. літоўскага Аляксандра ў Маскву ў час сватаўства да князіні Алены Іванаўны, 1483). З 15 ст. пашырыліся кола заказчыкаў (удзельныя князі, баярства), геаграфія ўзнікнення (Вільня, Слуцк, Берасце, Мсціслаў і менш значныя цэнтры) і разнастайнасць жанравага прызначэння твораў [мемарыяльная рэпрэзентацыя – *партрэт пахавальны* і эпітафійны, пазней – мемарыяльна-дакумент. і сац.-рэфлексіўная рэпрэзентацыя ў складзе прыватных маст. калекцый (Жыгімонта II Аўгуста ў Вільні, М.Радзівіла Чорнага і М.К.Радзівіла Сіроткі ў Нясвіжы)].




Партрэт Кацярыны Тэнчынскай-Слуцкай. Фрагмент. Мастак М.Кобер. 1580-я г.

У 16–17 ст. пад уплывам рэнесансу ў ВКЛ склаліся асяродкі гуманістычнай секулярызаванай культуры (прыдворныя гурткі навукоўцаў, літаратараў, мастакоў), пашыралася мецэнацкая дзейнасць, у л-ры, мастацтве, юрыспрудэнцыі, гіст. творах (хроніках) на першы план вылучалася асоба і індывідуальнасць чалавека, што стварала перадумовы росквіту партрэта ў жывапісе, скульптуры, графіцы, а таксама выкарыстанню адпаведных вобразаў у дэкар.-ўжытковым мастацтве (кафлярства і інш.). Значны ўплыў на развіццё жанру зрабілі кантакты з цэнтрамі класічнага Адраджэння ў Зах. і Цэнтр. Еўропе, куды магнаты і заможная шляхта выязджалі вучыцца або з якімі вялікакняжацкую сям'ю злучалі дынастычныя і паліт. сувязі (панаванне Ягайлавічаў у Будапешце і Празе, шлюб Жыгімонта I Старога з Бонай Сфорца з Мілана, альянс з Габсбургамі на Венскім кангрэсе 1515). На развіццё інтэрнацыяналізаванай па форме плыні партрэтнага жывапісу ў ВКЛ у сярэдзіне 16 ст. ўздзейнічаюць нямецкія [ананім з майстэрні Кранахаў у Вільні (серыя выяў апошніх Ягайлавічаў), партрэтыст і аўтар палотнаў на свецкія сюжэты Антон Вейдэ (1508–58) з Цюрынгіі] і італьянскія [Дж. дэль Монтэ (партрэт Паўла Гальшанскага)] школы. У некат. маст. працах адчуваецца сувязь з познарэнесансавым мастацтвам Прагі (партрэт Кацярыны Тэнчынскай-Слуцкай), якое рэпрэзентаваў Марцін Кобер, што працаваў пры дварах Стафана Баторыя і Жыгімонта III Вазы.

З часоў Стафана Баторыя фарміраваўся спецыфічны стыль *партрэта сармацкага*, светапоглядна звязанага з міфам пра «сармацкае» паходжанне шляхты Польшчы і ВКЛ, што адбілася ў яго фармальных асаблівасцях – ад манеры «нацыянальнага шляхецкага» касцюміравання мадэлі (партрэт цвярскога кн. Міхаіла Барысавіча, мяжа 16–17 ст.) да спосабу рэпрэзентацыі – ролі атрыбутаў, геральдычных і тэкставых элементаў у адлюстраванні (партрэт Льва Сапегі, каля 1617; партрэты роду Весялоўскіх з Гарадзенскага кляштара брыгітак, 1630–40-я г.). Тыпалогія жанру развіваецца за кошт пашыраных да канца 18 ст. вобразаў рыцараў–воінаў у даспехах [homo militans; партрэт Юрыя Радзі— віла (1480–1541), канец 16–1-я чвэрць 17 ст.] і выяў «гуманістаў»-навукоўцаў і рэліг. дзеячаў [партрэты Юрыя Радзівіла, кардынала віленскага і кракаўскага (1556–1600), канец 16 ст.; Кіпрыяна Жахоўскага, 1680; Георгія Каніскага, канец 18 ст.).

У часы барока ў мастацтве ВКЛ канчаткова сфарміраваліся 2 фармальныя плыні партрэтнага жывапісу: «агульнаеўрапейская» і «сармацкая». Іх узоры прадстаўлены як у прыватных палацава-сядзібных калекцыях, так і ў грамадскіх інтэр'ерах (храмы і інш.). Развіццё першай выяўляецца ў творчасці замежных мастакоў, якія працуюць у ВКЛ і ўспрымаюць элементы нац. культур яго народаў [велікакняжацкія мастакі-сервіторы



Партрэт Уладзіслава IV Вазы. Невядомы (гданьскі?) мастак. 1630-я г.

П.Данкерс дэ Рэй з Амстэрдама (1605–61, яму прыпісваецца партрэт А.С.Радзівіла, сярэдзіна 17 ст.), Даніель Шульц з Гданьска (1615–83, партрэты Я.Радзівіла, каля 1652, і групавы партрэт М.К.Радзівіла з сям'ёй, каля 1672), Б.Стробель з Вроцлава (1591–1650, партрэт У.Д.Заслаўскага-Астрожскага, каля 1635)] і ў заказах велікакняжацкай сям'ёй твораў за мяжой (выявы Жыгімонта III Вазы і Уладзіслава IV Вазы работы П.П.Рубенса і яго майстэрні). Да гэтага кола належыць партрэт Уладзіслава IV невядомага (гданьскага ?) мастака (1630-я г.).

Калькасна дамінуюць парадна-рэпрэзентатыўныя выявы ў цэлую постаць, з сярэдзіны 17 ст. павялічваецца колькасць паўпарадных паясных адлюстраванняў з элементамі псіхалагізму вобраза (работы Д.Шульца), а ў часы Яна III Сабескага назіраецца пранікненне стылістыкі класіцызму з антыкізаванымі дэталямі касцюмаў (арыентацыя на Францыю і Італію густаў прыдворнага асяродка і некаторых мецэнатаў, у т.л. Радзівілаў і Пацаў).

Пашырэнне партрэтаў сармацкага тыпу звязана з маніфестацыямі нац. і шляхецкай саслоўнай ідэалогіі, адпаведным колам заказчыкаў і прызначэннем твораў не толькі ў сядзібныя галерэі [партрэт Мікалая Завішы (1591?–1647), 1-я пал. 17 ст.; партрэт К.С.Радзівіла (1669–1719), пач. 18 ст.], але і ў храмы часткаю эпітафійных, пахавальных, мемарыяльна-рэліг. комплексаў (партрэты Е.Тышкевіч, 1660; А.Гасеўскага, 1-я пал. 17 ст.). Творы сармацкага кола нарматыўныя і кананічныя, але заснаваны на некласічных для еўрап. жывапісу катэгорыях, своеасаблівасць якіх карэніцца ў традыцыях усх. хрысціянства. У ВКЛ апошнія дынамічна вестэрнізаваліся з 17 ст. ў рэчышчы грэка-каталіцкай культуры, у абноўленым выглядзе (спалучаныя ўмоўна-знакавая і рэалістычна-пластычная выяўленчыя сістэмы) уплывалі на свецкае мастацтва. Вяршыняй «сармацкай» плыні ў 17 ст. з'яўляецца творчасць І.*Шрэтэра*, які працаваў у 1630–70 у Вільні, Гародні, Нясвіжы (партрэт Кацярыны і Марыі Радзівіл; 1646; алтарныя карціны).

Выкліканы Паўн. вайной 1700–21 эканам. заняпад не перашкодзіў росквіту рэзідэнцый магнатаў ВКЛ у 18 ст. (Радзівілаў у Нясвіжы і Белай, Сапегаў у Дзярэчыне і Ружанах, Агінскіх у Слоніме, Тышкевічаў у Лагойску і інш.), у якіх назапашваліся мастацкія калекцыі з пануючымі над астатнімі зборамі галерэямі сямейных партрэтаў. Вял. значэнне зберажэнню родавай памяці сродкамі мастацтва ў сядзібах надавала шляхта. У 1-й пал. 18 ст. ў часы росквіту позняга барока і дамінавання ўплываў франц. жывапісу, а ў ВКЛ праз пасрэдніцтва Дрэздэна (напр., «Партрэт Я.Г.Флемінга» Л. дэ Сільвестра, 1720-я г.) паўстаюць вял. серыі парадных і паўпарадных сядзібных партрэтаў, у т.л. серыя партрэтаў Радзівілаў з выявамі, заключанымі ў маляваны лаўравы вянок для замкаў у Белай і Нясвіжы, ініцыяваная Ганнай Радзівіл з Сангушкаў (у 1736 налічвала 114, у 1760 – 133 выявы). Культ сямейных каранёў і шанаванне нац. гісторыі прывялі да ўзнікнення т.зв. імагінацыйных (уяўленчых) партрэтаў, напісаных пасля смерці асобы альбо прысвечаных міфічнай персоне. Яны сустракаюцца ў храмавых і прыватных зборах (партрэт Вітаўта з Берасцейскага кляштара аўгусцінцаў; партрэт міфічнага продка Радзівілаў Вайшунда, абодва 18 ст.). У эпоху саксонскай дынастыі захоўваўся падзел на «высокі» еўрапеізаваны, прадстаўлены творчасцю мастакоў замежнага паходжання (Луі дэ Сільвестр Малодшы, Аўгусцін Мірыс, Шыман Чаховіч) і «сармацкі» стылі. У апошнім побач з кансервацыяй традыцыйных першаўзораў назіраецца тэндэнцыя да пераасэнсавання запазычаных стылёвых форм позняга ракако і класіцызму (партрэт Альжбеты





Партрэты Кыштофа Тэабальда Завішы і Альжбеты Завішы з Заранкаў-Гарбоўскіх. Невядомы мастак. 18 ст.



Партрэт Ганны Людвікі Караліны Радзівіл з Мыцельскіх. Мастак кола Ю.К.Гескага. Пасля 1757.

Завішы з Заранкаў-Гарбоўскіх, сярэдзіна 18 ст.), спалучэння іх з традыцыйнай іканапіснай выяўленчай мовай. Мастакі «сармацкага» кірунку нярэдка выступалі і як іканапісцы (М.Бейтнік, В.Маркіянавіч).

У апошнія 3 дзесяцігоддзі 18 ст. назіраецца размежаванне мастакоў «сармацкага» кірунку, частка якіх «еўрапеізуе» свае творчыя ўстаноўкі – Ю.К.Гескі Малодшы (партрэт Станіслава Аўгуста Панятоўскага, 1783), К.Александровіч – і папярэднічала ўзнікненню акадэмічнай мастацкай школы партрэта ў Віленскім ун-це (1798, Ф.Смуглевіч). У працах інш. ананімных або малавядомых мастакоў (К.Івашкевіч і галерэя партрэтаў Янішэўскіх з Дунілавіч) формула сармацкага адлюстравання кансервуецца і паступова занепадае (партрэт А.Укольскага з Крывічоў, 1770-я г.), але вобразныя цытаты з яе архаічна-патрыятычнымі акцэнтамі ажыўляюць некат. працы мастакоў 19 ст.

*Літ.*: Тананаева Л.И. Сарматский портрет: Из истории польского портрета эпохи барокко. М., 1979; Seminaria Niedzickie II. Portret typu sarmackiego w wieku XVII w Polsce, Czechach, na Słowacji i na Węgrach. Kraków, 1985; Хадыка А.Ю., Хадыка Ю.В. Непаўторныя рысы: З гісторыі бел. партрэта. Мн., 1992; Gdzie Wschód spotyka Zachód. Portret osobistości dawnej Rzeczypospolitej, 1576–1763: Katalog wystawy pod kierunkiem J.Malinowskiego. Warszawa, 1993; Matušakaitė M. Portretas XVI–XVIII a. Lietuvoje. Vilnius, 1984; Гістарычны партрэт ВКЛ XVI–XVIII ст.: Каталог выставы (май 2002–май 2003). Мн., 2003.

***Аляксей Хадыка.***

**Манументальны жывапіс**

Манументальны жывапіс ВКЛ стылістычна можна падзяліць на наступныя перыяды: візантыйская і рамана-гатычная традыцыя (13–16 ст.), размалёўкі пераходнага готыка-рэнесансавага перыяду (16 ст.), барочны жывапіс (17–18 ст.). Гэта ансамблевыя цыклы размалёвак, якія на сённяшні дзень захаваліся фрагментарна ці радзей цалкам. Архіўныя крыніцы паведамляюць пра наяўнасць размалёвак у інтэр'ерах каралеўскіх і магнацкіх палацаў у Вільні, Гародні і несталічных гарадах ВКЛ. Сакральныя ансамблі (захаваліся лепш за іншыя) сведчаць пра выкарыстанне гэтага віду мастацтва ў аздабленні інтэр'ераў манастырскіх і гар. сабораў, унутраных памяшканняў манастыроў (калідораў, рэфекторыяў – залаў для прыёму ежы і г.д.).

Найб. раннім узорам раманскага стылю з элементамі ранняй готыкі 14 ст. з'яўляецца фрэска ў кафедральным касцёле св. Станіслава і Уладзіслава ў Вільні. Кампазіцыя ўяўляе сабой Распяцце з прадстаячымі Маці Божай і евангелістам Іаанам. Позняя готыка пач. 16 ст. прадстаўлена размалёўкамі калідора бернардзінскага кляштара і касцёла св. Францішка і Бернардзіна ў Вільні. Адкрытая сучаснымі рэстаўратарамі з-пад позніх запісаў сцэна Распяцця (на сцяне калідора, які прымыкае да паўн. боку храма) – складаная кампазіцыя з распятым на крыжы Хрыстом, прадстаячымі Марыяй і Іаанам у акружэнні тыпалагічных сцэн са Старога Запавету, якія сімвалізуюць падзеі, што папярэднічалі ахвяры і ўваскрэсенню Хрыста. Да творчасці невядомага майстра адносіцца цыкл з выявай сцэн пакут Хрыста (сярэдзіна 16 ст.) у Рыконтах.

Фрэска «Распяцце». Віленскі кафедральны касцёл Станіслава і Уладзіслава. Канец 14 ст.



Візантыйская традыцыя 15–16 ст., якая ўзыходзіць сваімі каранямі ў сярэдневяковае мастацтва Полацкага і Валынскага княстваў, прадстаўлена цыкламі размалёвак у храмах на тэр. сучаснай усх. Польшчы: касцёла-калегіяты ў Вісліцы (1430-я г.), капліцы Св. Тройцы ў замку Любліна (1418), касцёлаў у Сандаміры (1430-я г.), Дабравешчанскай царквы Супрасля (мастак Нектарый Сербін?, 1557). Гэтыя ансамблі адрозніваюцца ад рамана-гатычных помнікаў наяўнасцю поўнага комплексу фрэсак, якія пакрываюць, паводле візантыйскага канона, скляпенні і сцены храмаў.

Найб. росквіту манументальны жывапіс ВКЛ дасягнуў у эпоху *барока* (17–18 ст.). Прадстаўлены ў асноўным у інтэр'ерах каталіцкіх касцёлаў. Складаныя тэалагічныя палажэнні Трыдэнцкага сабора (1545–63) рымскія мастакі прапанавалі ўвасабляць сродкамі прастораваго, ілюзіяністычнага жывапісу, які стварае эфекты расшырэння,





Саламон і царыца Саўская. Размалёўка скляпення трансепта касцёла Божага цела ў Нясвіжы. Мастак К.Д.Гескі. 1763(?).

Размалёўка столі касцёла Пажайскага кляштара камедулаў. Мастак М.Палоні. Каля 1676–94.

зрокавага відазмянення храмавай прасторы і дынамічнай адкрытасці асобных кампазіцый, якія нібы уцягваюць гледачоў у сваю ўмоўную прастору. Вядучым майстрам манументальнага барока ВКЛ быў італьянец М.*Палоні*, запрошаны вял. гетманам літоўскім М.К.Пацам для размалёўкі *Пажайскага кляштара камедулаў* (1685–90). Ён таксама ўпрыгожыў 4 раскошнымі пpастоpавымі кампазіцыямі сцены капліцы св. Казіміра кафедральнага касцёла св. Станіслава і Уладзіслава ў Вільні (1690–92). Сучаснік Палоні віленскі мастак Іаган Готфрыд Беркхаф (вядомы ў Вільні ў 1676–90, стылістычна блізкі да маэстра, але без яго тэхн. дасканаласці) выканаў размалёўкі на скляпеннях касцёла св. Пятра і Паўла на Антокалі – фундацыі сям'і Пацаў (каля 1685). Прадаўжальнікам традыцыі Палоні быў італьянскі мастак Джузепе Росі (пач. 18 ст.), які выканаў размалёўку купала са сцэнай каранавання Маці Божай у касцёле кляштара камедулаў у Пажаях.

З 2-й чвэрці 18 ст. ў манументальным жывапісе ВКЛ узмацніліся тэндэнцыі квадратурнага жывапісу – аптычных ілюзорных і панарамных пабудоў на аснове архітэктурных перспектыўных элементаў. Узорам служылі шматлікія кнігі па перспектыве, якія выдаваліся ў еўрап. краінах. Найб. папулярнасцю карыстаўся трактат італьянскага мастака, манаха-езуіта А.Поца. Квадратура складала асн. фон і абрамленне фрэскавых кампазіцый на скляпеннях і сценах храмаў. У канцы 18 ст. яна стала асновай новага варыянта афармлення інтэр'ераў у выглядзе аднакаляровых (тэхніка грызайль) жывапісам выкананых алтароў на сценах храмаў замест драўляных алтароў. У квадратурныя (як пісалі сучаснікі «на оптыку дадзеных») манументальныя цыклы сярэдзіны 18 ст. ўваходзяць фрэскі касцёла св. Францыска Ксаверыя ў Гародні (мастак Ігнацій Дарэцці?, 1752) і размалёўкі касцёла Божага Цела ў Нясвіжы (мастакі *Гескія*, Мікалай Струмецкі, Канстанцін Петрановіч, Казімір Лютніцкі, Андрэй Зашкант, 1750–53). Гарадзенскі ансамбль складаецца з 14 кампазіцый, прысвечаных жыццяпісу вядомага місіянера ў «краінах Індыі і Японіі» 16 ст. св. Францыска Ксаверыя. Аўтар размалёвак абапіраўся на гравюрныя першакрыніцы 17 ст. У Гародні былі выкарыстаны 15 гравюр з 52-аркушавага цыкла «Жыція Святога Францыска Ксаверыя» Мельхіёра Хафнера. Мастак толькі перавёў іх з вертыкальнага фармату ў гарызантальны і выканаў ілюзіяністычны пейзажны фон. Манеру мастака вылучае больш жывапіснае валоданне плямай, чым дакладным малюнкам, і асобая структура кампазіцыі, пры якой сюжэтнае дзеянне выносіцца на самы край кампазіцыйнага прамавугольніка. Размалёўкі Нясвіжскага касцёла, што ўкрываюць суцэльным дываном сцены і скляпенні храма, уключаюць каля 20









Сцэны з жыцця св. Францыска Ксаверыя. Фрэскі ў Гарадзенскім езуіцкім касцёле Францыска Ксаверыя. 1752.

ілюзіяністычных кампазіцый, якія раскрываюць тэму сакраманту (хлебапрычашчэння).

З канца 1750-х г. манументальны жывапіс позняга барока ўключае элементы стылю ракако. Большасць такіх ансамбляў прадстаўлена ў касцёлах Вільні, Магілёва, Мсціслава. Найб. захаваліся цыклы размалёвак касцёлаў кармеліцкіх кляштараў Магілёва (1765–67) і Мсціслава (1760-я г.). Яны належаць аднаму мастаку-манументалісту, манаху Юзафу (Догелю?). Акрамя сакральнай праблематыкі аўтар паказаў гіст. сцэны і аўтапартрэт.

Манументальны жывапіс 18 ст. Вільні, Коўна, а таксама невял. гарадоў ВКЛ, якія знаходзяцца на тэрыторыі сучаснай Літвы, захаваўся больш чым у 15 помніках, але дастаткова фрагментарна. У многіх з іх праведзены кансервацыйна-рэстаўрацыйныя работы. Ёсць раннія прыклады пач. 18 ст. і больш познія 1760–70-х г. Віленскія ансамблі пач. 18 ст. не даюць той складанай арх. ілюзіі (квадратуры), як у Нясвіжы. Размалёўкі 1760-х г. – гэта пасобку размешчаныя сюжэтныя сцэны або панарамныя кампазіцыі, абрамлёныя парапетам (капліца св. Станіслава віленскага універсітэцкага касцёла св. Яна, 1760–61). Каларыт размалёўкі касцёла св. Яна вылучаецца тонка нюансаванымі адценнямі align розната колеру, таму гэты стыль манументальнага жывапісу атрымаў у літоўскім мастацтвазнаўстве назву «жывапіснага». Да яго можна аднесці цыклы сценапісаў віленскіх храмаў: касцёлаў св. Тэрэзы (мастак Мацвей Слушчанскі, 1763–67), св. Георгія (1770-я г.), Кальварыйскага касцёла (1755–72). Размалёўкі апошняга прысвечаны гісторыі Святога Крыжа. Яны ўключаюць гіст. сцэну перамогі імператара Канстанціна над Максенцыем, у час якой, паводле легенды, на небе з'явіўся вогненны крыж. Іканаграфічна кампазіцыя паўтарае гравюру фламандскага майстра П.П.Рубенса. Зварот да яго творчасці быў характэрны для жывапісу позняга барока ВКЛ.

У 1770-я г. на бел. і ўкр. землях ВКЛ вядомы работы мастакоў-манументалістаў: Анташэўскага ў Менску і Будславе, манаха-піяра К.Гюбля ў Любяшове, Гародні, Шчучыне, у піярскіх кляштарах каля Пінска і Луцка, базыльяніна Грушэцкага ў Гародні. У канцы 18 ст. ілюзіяністычным жывапісам упрыгожваліся ў асноўным нешматлікія кляштарныя касцёлы. Парафіяльныя (прыходскія) касцёлы часцей за ўсё абмяжоўваліся грызайльнымі выявамі алтароў. Такі інтэр'ер быў больш танны, бо не трэба было будаваць стукавыя або драўляныя алтары. Барочнае манум. мастацтва ВКЛ было цесна звязана з мастацтвам на тэр. каронnай Польшчы, у розных частках Рэчы Паспалітай часта працавалі адны і тыя ж мастакі.

*Літ.*: Hornung Z. Stanisław Stroiński. Lwów, 1935; Karpowicz M. Działalność artystyczna Michelangela Palloniego w Polsce. Warszawa, 1967; Церашчатава В.В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI–XVIII стст. Мн., 1986.

***Вольга Бажэнава.***

**Гравюра**

Мастацтва гравюры дасягнула значных поспехаў у ВКЛ. Тут развіваліся розныя яе віды (кніжная, станковая) і жанры (партрэт, пейзаж, батальныя і гіст. кампазіцыі, геральдычная і панегірычная гравюра, гравюра-тэзіс, лубок); выконваліся *экслібрысы*, распаўсюдзіліся разнастайныя графічныя тэхнікі – дрэварыт, гравюра на метале, акватынта і інш. Узнікшы на плённым сумежжы правасл.-візантыйскай і каталіцка-раманскай культур, гравюра ў ВКЛ развівалася пад пэўным паслядоўным уздзеяннем готыкі, культуры Адраджэння, барока, класіцызму, моцны ўплыў на яе зрабілі мясц. мастацкія традыцыі.

Вытокі ўзнікнення гравюры на землях ВКЛ трэба шукаць у разнастайных рамёствах: у сфрагістыцы, у творах залатароў, гравёраў-штампавальнікаў, майстроў набіванкі і інш. 1-ы этап развіцця гравюры ў ВКЛ цесна звязаны з узнікненнем кнігадрукавання. У пач. 1520-х г. Ф.Скарына заснаваў першую ва Усх. Еўропе і ВКЛ друкарню ў Вільні. Выдадзеныя раней у Празе 23 кнігі «Бібліі рускай» і надрукаваныя ў Вільні «Малая падарожная кніжка» (каля 1522) і «Апостал» (1525) былі ўпрыгожаны шматлікімі ананімнымі гравюрамі-дрэварытамі. Асветнік сінтэзаваў тут традыцыі ілюмінаваных рукапісаў і лепшыя здабыткі зах.-еўрап. кніжнай гравюры. У выданнях Скарыны ўпершыню сустракаецца практычна ўсё тое, што вядома мастацтву кнігі і сёння: гравюра-партрэт, сюжэтна-тэматычныя і «пазнавальныя» ілюстрацыі, ілюстрацыйны і арнаментавана-шрыфтавы тытульны аркуш, франтыспіс, застаўкі, канцоўкі, ініцыялы, наборны арнамент. Выкананыя на надзвычай высокім мастацкім і паліграфічным узроўні гравюры скарынінскіх выданняў зрабілі моцны ўплыў на далейшае развіццё мастацтва кніжнай гравюры ў ВКЛ. Традыцыі Скарыны відавочныя ў дзейнасці кірыліцкіх і лац.-польскіх друкарняў 2-й пал. 16 ст., буйнейшымі з якіх былі Берасцейская, Нясвіжская, Віленская друкарня Мамонічаў, друкарня Віленскай акадэміі і інш. Прыкметную ролю ў развіцці кніжнай гравюры гэтых часоў выканала Заблудаўская друкарня Р.Хадкевіча, дзе рус. першадрукар І.Фёдараў разам з П.Мсціслаўцам выдалі «Евангелле вучыцельнае» (1569) і «Псалтыр» (1570), упрыгожаныя гравюрамі «Герб Хадкевіча» і «Цар Давід».




Герб Р.А.Хадкевіча. Гравюра з кнігі «Евангелле вучыцельнае». Заблудаў. 1569.




Тытульны ліст кнігі «Быццё» з гербамі друку Ф.Скарыны. Прага. 1519.

Станковая гравюра ў 16 ст. развівалася больш сціпла. Існавалі гравіраваныя партрэты Жыгімонта І Старога і яго жонкі Боны (1521), развівалася картаграфія (гл. *Віда-Ляцкага карта*), а таксама гар. пейзаж : «План Полацка», «Карта Полацкай зямлі» (малюнкі С.Пахалавіцкага, 1579, награвіраваны ў 1780 у Рыме Т.Трэтарам), гіст. кампазіцыі: «Від Гародні з выездам пасольства маскоўскага ў час сойма пры Жыгімонце ІІ Аўгусце» (малюнак Г.Адэльгаўэра, 1567, награвіраваны М.Цюнтам у 1568 у Нюрнбергу), выкананыя ў тэхніцы медзарыту.

У 17–18 ст. кніжная гравюра ВКЛ развівалася як у традыцыйнай тэхніцы дрэварыту, так і ў новай тэхніцы металагравюры. Сакавітыя, эмацыянальныя, зробленыя з улікам натурных назіранняў, блізкія да нар. мастацтва фігуратыўныя гравюры-дрэварыты ўпрыгожваюць асобныя выданні друкарняў віленскіх брацтваў, Еўя, Супрасля, большасць кніг, надрукаваных у Куцейне і Магілёве. У канцы 17–пач. 18 ст. мастакі кірыліцкай кнігі пачалі падпісваць свае творы, таму мы ведаем імёны М.*Вашчанкі*, В.*Вашчанкі*, Ф.*Ангілейкі*, Афанасія П. (Пігарэвіча?), «майстра Сямёна», М.Антушкевіча, М.Чарняўскага, Я.Стрэльбіцкага і некат. асобных манаграмістаў.



Т.Макоўскі. Ілюстрацыя да кнігі К.М.Дарагастайскага «Гіпіка». Кракаў. 1603.

З пач. 17 ст. ў тэхніцы медзарыту актыўна працаваў нясвіжскі майстар Т.*Макоўскі*, які награвіраваў 1-ю дакладную карту ВКЛ (каля 1603; захавалася 2-е выд., Амстэрдам, 1613), стварыў гравюры з відамі Вільні, Нясвіжа, Трокаў, Клецка, Біржаў, Гародні, Масквы, «Панегірык



братоў Скарульскіх» (1604), «Панегірык Казіміру» (1610), выдатныя ілюстрацыі да кніг «Вандраванні князя Мікалая Радзівіла ў Іерусалім» (1601), «Гіпіка» К.Дарагастайскага (1603) і інш. Значных поспехаў у развіцці металаграфіі дасягнулі мастакі, якія працавалі ў Віленскай акадэмічнай друкарні, перш за ўсё А.*Тарасевіч* і Л.*Тарасевіч*. Прызнаны майстар кніжнай гравюры, партрэта, геральдычнай і панегірычнай гравюры, А.Тарасевіч перш за ўсё вядомы як аўтар 40 ілюстрацый да кнігі «Rozarium et Officium Beatae Mariae Virgims...» («Малітвы і службы блажэннай Дзеве Марыі...», каля 1680). Створаныя ім гравюры ўражваюць майстэрствам малюнка, прафесіяналізмам і дасканаласцю графічнай тэхнікі. Пэўнае ўздзеянне барока адчуваецца ў творах Л.Тарасевіча, які працаваў як партрэтыст і ілюстратар. У друкарні Віленскай акадэміі выдавалі свае творы Л.Кршчановіч, І.Шчырскі, К.*Гётке*, Д.Пельцэльд, Д.Энгельгарт, Т.Шнопс і інш. У 18 ст. разам з кніжнай гравюрай у ВКЛ актыўна развівалася і станковая графіка, якая была прадстаўлена сюжэтнымі кампазіцыямі, лубком, партрэтам, якія гравіраваліся ў Вільні, Нясвіжы, Гародні. Прыкметнай дэкаратыўнасцю вылучаюцца гравіраваныя партрэты, экслібрысы, творы рэліг. зместу Ф.*Бальцэвіча*. Для графічных партрэтаў Е.Бёлінга, І.Пятроўскага, І.*Карэнгі* характэрна спалучэнне прафес. навыкаў з рысамі аматарства. Вядомым помнікам мастацтва гравюры стаў альбом «Выявы роду князёў Радзівілаў», у якім змешчана 165 партрэтаў прадстаўнікоў роду Радзівілаў. Альбом надрукаваны ў 1758 у Нясвіжскай друкарні, яго медзярыты, хутчэй за ўсё, выкананы некалькімі мастакамі, сярод якіх даследчыкі называюць Г.*Ляйбовіча* і яго бацьку Лейбу Зыскяловіча. Прыкметнае месца ў станковай графіцы 18 ст. займае нар. лубок. Дрэварыты, часам расфарбаваныя акварэллю, выкананыя нар. майстрамі, вылучаюцца непасрэднасцю і чалавечай цеплынёй. Своеасаблівасць надаюць ім спрошчаныя тэхн. прыёмы разьбы па дрэве, цесная сувязь выявы і тэксту.

Л.Тарасевіч. Партрэт Е.Л.Зямлі, падстолія ашмянскага, пісара скарбовага. Паміж 1676–89.



А.Пігарэвіч. Гравюра «Хрыстос з херувімамі» з кн. «Акафісты штодзёныя». Магілёў. 1698.

*Літ.*: Історія українського мистецтва. Т. 3. Київ, 1969; А н у ш к и н А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; P e t r a u š k i e n ė I. Vilniaus Akademijos spaustuve, 1575–1773. Vilnius, 1976; D r ė m a V. Materiały do historii sztuki Wielkiego Księstwa Litewskiego // Biuletyn historii sztuki. 1977. № 2; С т е п о в и к Д.В. Українська графіка XVI–XVIII століть. Київ, 1982; Ш м а т а ў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI–XVIII ст. Мн., 1984; Я г о ж. Искусство книги Франциска Скорины. М., 1990; Я г о ж. Мастацтва беларускіх старадрукаў. Мн., 2000; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1–2. Мн., 1987–88; П і к у л і к А.М. Мастацтва магілёўскіх старадрукаў. Мн., 2002.

***Алена Пікулік.***

### Скульптура

Манументальная скульптура ў 13–16 ст. на землях ВКЛ практычна не існавала. Яна амаль цалкам належыць да эпохі барока (17–18 ст.) і развівалася як мемарыяльная і алтарная. Першыя скульптурныя надмагіллі (віленскага біскупа П.Гальшанскага і канцлера ВКЛ А.Гаштольда) з'явіліся ў Вільні ў 1560-я г. Канец 16 і 1-я пал. 17 ст. быў кароткім перыядам існавання мемарыяльнай скульптуры як запозненай з'явы рэнесансавай культуры (надмагіллі Радзівілаў у Нясвіжы, 1590–1608; Сапегаў, С.Радзівіла, Ю.Тышкевіча і С.Паца ў Вільні, Вольскіх у Крамяніцы, Агінскіх у Кронях). 2-я чвэрць 17 ст.



Галоўны алтар касцёла Яна Хрысціцеля ў Воўпе. Дрэва, разьба, пазалота. Каля 1634.





Надмагілле Мікалая Вольскага і Барбары Войны ў касцёле Ісуса ў Крамяніцы. Пасля 1623.

адзначана імклівым развіццём драўлянай алтарнай скульптуры. У перыяд станаўлення майстры часта звярталіся да гатычных узораў («гатычнае барока»). У 1-й пал. 17 ст. створана мноства раннебарочных алтароў: у Воўпе (1634), Новай Мышы (1630-я г.), Крамяніцы (2-я чвэрць 17 ст.), Будславе (1649). На працягу 2-й пал. 17 ст. разная скульптура амаль згасла; развівалася манументальна-дэкаратыўная стукавая пластыка (касцёлы ў Міхалішках, Пятра і Паўла і трынітарыяў у Вільні, капліцы Казіміра ў Вільні, Ларэтанская ў Гародні). У 1-й трэці 18 ст. фарміравалася Віленская школа разьбы, ствараліся алтарныя ансамблі ў Пінскім францысканскім (1712–23) і Гарадзенскім езуіцкім (1709–36) касцёлах. Адсутнасць знешняй дынамікі і напружанасці, ураўнаважанасць і стрыманасць – характэрныя рысы скульптуры бел. барока. Шырокае выкарыстанне ў сярэдзіне 18 ст. знайшоў паліхромны стука, які заметна выцесніў драўляную разьбу з храмаў вял. гарадоў у вясковыя храмы. У сярэдзіне 18 ст. разьбяры асвоілі дынаміку барока (касцёл у Вішневе). У 2-й пал. 18 ст. адначасова са стылем барока згасла і манументальна-дэкаратыўная скульптура. Ствараліся адзіночныя шанаваныя скульптуры: «Укрыжаванне», «Ісус перад Пілатам», «Хрыстос засмучаны». Пашырылася культавая скульптура майстроў-самавукаў (нар. прымітыў). Спрошчаная ў пластычных адносінах, яна прыцягальная своеасаблівасцю вобразаў і іканаграфіі святых.

*Літ.*: Матушакайте М. Литовская надгробная скульптура эпохи Ренессанса и раннего барокко // Искусство Прибалтики. Таллин, 1981; Пластыка Беларусі 12–18 стагоддзяў. Мн., 1983; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1–2. Мн., 1987–88; Лявонава А.К. Старажытнабеларуская скульптура. Мн., 1991; Matušakaitė M. Senoji medžio skulptūra ir dekoratyvinė drožyba Lietuvoje. Kaunas, 1998; Balaišytė L. Drožėjai XVIII a. Vilniaus bendruomenėje // Menotyra. 1999. № 4.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

Паліваная кафля з выявай вазона з кветкамі. Магілёў. Сярэдзіна – 2-я пал. 17 ст.



**Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва**

У 14–16 ст. адбывалася інтэнсіўнае развіццё дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, на характар якога моцна ўплывалі актыўныя гандлёвыя і культурныя сувязі з краінамі Зах. Еўропы. Тэхнічныя і мастацкія дасягненні зах.-еўрап. рамеснікаў творча развіваліся і перапрацоўваліся мясцовымі майстрамі, спалучаліся з традыцыямі Візантыі і Стараж. Русі, што давала тыпова мясцовыя варыянты розных відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Вылучэнне рамесніцкай вытв-сці з інш. відаў працоўнай дзейнасці выклікала хуткі рост колькасці рамеснікаў. Пашырыўся працэс спецыялізацыі рамёстваў, расшчапленне асобных відаў рамесніцкай вытв-сці на больш вузкія спецыяльнасці, што вяло да ўдасканалення майстэрства, узбагачэння прыёмаў творчасці, павышэння мастацкіх якасцей вырабаў. Пісьмовыя крыніцы згадваюць каля 200 прафесій, сярод якіх пераважаюць метала- і дрэваапрацоўчыя, выраб і рамонт зброі, швейная, апрацоўка скуры і інш. Цэнтрамі рамесніцкай вытв-сці станавіліся гарады, праз якія вёўся транзітны гандаль Рас. дзяржавы з гарадамі Польшчы і ўсх. Прыбалтыкі. Шмат рамеснікаў пражывала пры манастырах, замках, маёнтках.

Рост колькасці рамеснікаў выклікаў патрэбу ў спецыялізаваных прафесійных аб'яднаннях. Ужо ў 15 ст. ўзніклі першыя такія аб'яднанні зах.-еўрап. тыпу – цэхі. У 16 ст. яны канцэнтравалі асн. частку рамеснікаў, аб'ядноўвалі майстроў адной або некалькіх роднасных прафесій. Цэхавая структура прадугледжвала высокую якасць прадукцыі з добрай сыравіны, што станоўча паўплывала на далейшае развіццё рамёстваў – як у якасных, так і ў колькасных адносінах. Так, у Магілёве ў 17 ст. цэхавыя аб'яднанні ўключалі больш за 80 рамесніцкіх спецыяльнасцей: саф'яннікі, паяснікі, нагайнікі, замшавікі, кафтаннікі, панчошнікі, капялюшнікі, збраяры, меднікі, печнікі, ганчары, ліцейшчыкі і інш. Былі развіты разьба па дрэве з пазалотай, выраб высакаякаснага саф'яну, размаляваная золатам і каляровымі эмалямі кераміка, ліццё гармат і званоў. Цаннікі выраблялі фігурную кафлю для печаў, разьбяры – мэблю, архітэктурнае ўбранне, ткачы – розныя сукны, дываны. У колькасных адносінах сярод рамеснікаў пераважалі металаапрацоўшчыкі: кавалі, ювеліры, збраяры, ліцейшчыкі, меднікі, слесары, чаканшчыкі, гадзіншчыкі, замочнікі. З каляровых і каштоўных металаў яны выраблялі для палацаў і храмаў посуд, начынне, абклады абразоў і кніг, аздобленыя літым, чаканеным, гравіраваным арнаментам расліннага характару. У некат. вырабах адчуваецца ўплыў готыкі, з канца 16 ст. – рэнесансу.


Пляшка і келіх з гербамі «Цёлак» і «Окша». Налібакі. 1757-58.

Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва 17–18 ст. развівалася пад моцным уздзеяннем барока. Творы рамеснікаў набывалі дынамічную кампазіцыю, дэкаратыўную пышнасць, пластычнасць і экспрэсіўнасць форм. Плоскасны характар дэкору саступае месца аб'ёмнасці і шматпланавасці, шырока ўжываецца багаты раслінны арнамент у спалучэнні з дынамічна выгнутымі ракавінападобнымі элементамі, вітымі калонкамі, фігурнымі выявамі і інш. У аздабленні палацаў і храмаў шырока выкарыстоўваецца рэльефная паліхромная кафля, мастацкае кавальства, чаканка і асабліва разьба па дрэве, якая дасягнула ў 17 ст. свайго росквіту. Бел. майстры, спалучыўшы лепшыя дасягненні зах.-еўрап. мастацтва і мясцовыя мастацкія традыцыі, стварылі свой тыпова бел. варыянт барочнай разьбы, якая атрымала назву *беларуская рэзь*. Дасягненні майстроў ВКЛ набылі шырокую вядомасць у Маскоўскай дзяржаве, куды рамеснікаў масава перасялялі ў 2-й пал. 17 ст. для аздаблення палацаў і храмаў Масквы і наваколля. У 18 ст. шырока развівалася мануфактурна-вотчынная вытв-сць усіх відаў мастацкіх вырабаў. Асн. кірунак быў узяты на развіццё мастацкіх рамёстваў, заснаваных на шматвяковым вопыце мясцовых рамеснікаў: мастацкага шкла, дываноў, габеленаў, фаянсу, шаўковых тканін, зброі, мастацкага ліцця з металу, разьбянога і такарнага посуду і інш. Шырокую вядомасць у ВКЛ і за яго межамі набылі слуцкія паясы, карэліцкія габелены, урэцка-налібоцкае шкло, свержанскі і целяханскі фаянс. Многія віды дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (разьба па дрэве, мастацкае кавальства, кафлярства, ліццё з чорных металаў) развіваліся ў рэчышчы патрэб архітэктуры, якая з 2-й пал. 18 ст. адчула ўплыў класіцызму. Дэкор станавіўся больш ясным і строгім, арнаментальная аздоба канцэнтравалася на карнізах, фрызах, капітэлях, што выяўляла і падкрэслівала канструкцыйныя формы збудаванняў.


Фрагмент шпалеры «Уціхамірванне бунтаў пад Славечнам». Карэліцкая мануфактура. 2-я пал. 18 ст.


Каваныя краты. Касцёл Сустрэчы Марыі і Лізаветы ў Вішнёва. 17-18 ст.

*Літ.*: Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969; Яго ж. Народно-прикладное искусство Белоруссии: (от первобытного общества до 1917 г.). Мн., 1972; Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI–XVIII стст.). Мн., 1977; Дэкаратыўна-

прыкладное мастацтва Беларусі XII–XVIII стагоддзяў. Мн., 1984; С а х у т а Е.М., Г о в о р В.А. Художественные ремесла и промыслы Белоруссии. Мн., 1988; Беларуская кафля. Мн., 1989; Археалогія Беларусі. Т. 4. Мн., 2001.

***Яўген Сахута.***

**Музычнае мастацтва**

Музычнае мастацтва ВКЛ было часткай еўрап. музычна-гістарычнага працэсу з усімі характэрнымі для яго стылявымі этапамі – ад рэнесансу да барока і класіцызму. Аднак яно мела і унікальныя рысы, абумоўленыя этнаканфесіянальнай шматвектарнасцю: суіснаваннем музычных традыцый усіх хрысціянскіх (праваслаўя, каталіцызму, уніяцтва, пратэстантызму) і буйнейшых нехрысціянскіх (іудаізм і іслам) канфесій, спалучэннем розных этнічных плыней. У 13–15 ст. будаваліся многія хрысціянскія храмы, дзе ствараліся і гучалі царк. песнапенні, што захоўвалі адзінства са стараж. музычнай традыцыяй. Адным з ранніх музычных помнікаў правасл. царквы былі песнапенні пра Ефрасінню Полацкую. Выдатны ўзор эпохі сярэдневякоўя – гімн «Багародзіца», які выконваўся пераважна вернікамі зах.-хрысц. канфесіі. Свецкая музычная плынь была адзначана развіццём сольнага і ансамблевага музіцыравання, пашыранага ў гар. асяроддзі і пры дварах знаці. Асобае значэнне мелі капэлы велікакняжацкія Гедзімінавічаў (Альдоны, Вітаўта, Ягайлы), якія сталі цэнтрамі развіцця музычнага прафесіяналізму.




Фрагмент Берасцейскага канцыянала. 1558.

У эпоху Адраджэння (16 ст.) побач з праваслаўнай усё большую ролю адыгрывала каталіцкая муз. традыцыя, распаўсюджанне якой абумоўлена ўмацаваннем пазіцый зах.-хрысціянскай царквы (асабліва пасля ўваходу ВКЛ у склад Рэчы Паспалітай). Пашыралася колькасць касцёлаў, будаваліся арганы, ствараліся хары і капэлы. Арганізоўваліся навучальныя цэнтры (калегіумы і бурсы), дзе ажыццяўлялася музычная адукацыя і выхаванне моладзі. Пашыралася і пратэстанцкая муз. плынь, у межах якой разгортваўся нотны друк. Сярод першых выданняў – Берасцейскі, Нясвіжскі, Любчанскі, Віленскія канцыяналы (спеўнікі), у якіх прадстаўлены шматлікія вакальныя творы (пераважна ананімныя) рэліг. і свецкага зместу.




Фрагмент твора Вацлава з Шамотул.

Рэнесансавыя часы адметныя інтэнсіўным ростам і пашырэннем сферы свецкага музычнага мастацтва, гал. асяродкамі якога былі магнацкія і велікакняжацкія двары ў Вільні, Берасці, Гародні і Нясвіжы. У 16 ст. тут працавалі вядомыя славянскія кампазітары Ц.*Базылік*, *Вацлаў з Шамотул*, М.*Гамулка*, Я.*Брант*, В.*Длугарай*, К.*Клабан*. Апрача таго, мецэнаты запрасілі да сябе венгерскага лютніста і кампазітара В.*Бакфарка*, італьянскіх музыкантаў і выканаўцаў Л.Марэнцыо, М.Галілея (брата астранома Г.Галілея), яго сына Вінчэнца, лютніста Д.*Катона* і арганіста Ф.Мафона. Пры ўсёй разнастайнасці мастацкіх памкненняў творчасць гэтых кампазітараў яднае прыналежнасць да рэнесансавай стылявой традыцыі. Яе ўвасабленне назіраецца і ў вакальна-харавой музыцы, прадстаўленай паліфанічнымі жанрамі матэта, месы, псальмаў, і ў музыцы інструментальнай, багатай многімі танцавальнымі ўзорамі, фантазіямі і апрацоўкамі вакальных кампазіцый для лютні і клавіра. Пры двары М.Радзівіла Чорнага працавала каля 100 музыкантаў, музычныя ансамблі ўтрымлівалі магнаты ВКЛ Сапегі, Астрожскія і інш. Захапляліся музыкай кароль Жыгімонт I Стары і яго жонка Бона Сфорца, а таксама іх сын Жыгімонт II Аўгуст. Пры іх дварах існавалі высокапрафесійныя капэлы, дзе працавалі мясц. і замежныя музыканты, прычым мясцовым звычайна даручалася кіраўніцтва музычнымі калектывамі. Гэтую тра-


Pieśni Chrześcijańskie dawniejsze y Nowe, Których Chrześcijani (tak w Kościele iako y Doma) używać maią.

185

Teraz wydane przez Jana Secluciana.

W Krolewcu Pruskym / Miesiąca Pazdziernika.

Тытульны ліст Каралявецкага канцыянала. Сярэдзіна 16 ст.

дыцыю прадоўжыў і кароль Стафан Баторый, рэзідэнцыя якога месцілася ў Гародні. Тут дзейнічаў ансамбль з 40 музыкантаў пад кіраўніцтвам Клабана. Пасля смерці Баторыя калектыў узяў пад апеку наступны кароль – Жыгімонт III Ваза, які таксама захапляўся музыкай і сам добра іграў на музычных інструментах. Вельмі істотна, што ВКЛ было апошнім на ўсходзе музычна-культурным арэалам увасаблення рэнесансавых муз. традыцый.



Арган. Ружанскі Троіцкі касцёл. Каля 1788.

У эпоху барока (17–1-я пал. 18 ст.) храмы розных канфесій заставаліся гал. асяродкам муз. прафесіяналізму, развіцця кампазітарскай творчасці, выканальніцтва і адукацыі. Тут праходзілі штодзённыя набажэнствы, разгортваліся велічныя пазахрамавыя цырымоніі (паратэатральныя дзеі) з музыкай. Асабліва інтэнсіўна развівалася муз. жыццё сталіцы ВКЛ Вільні: пры двары вял. князёў дзейнічалі вакальна-інструментальныя капэлы, у якіх працавалі высокапрафесійныя музыканты, ставіліся оперныя творы. Плённа працавала Віленская акадэмія, у якой ажыццяўляліся муз. адукацыя і выхаванне моладзі.

Важнымі асяродкамі развіцця музычнага мастацтва ВКЛ сталі школьныя тэатры, якія існавалі ў навучальных установах (калегіумах і канвіктах) у Вільні, Полацку, Магілёве, Гародні, Берасці, Віцебску, Мсціславе, Нясвіжы, Менску, Оршы, Жыровічах і інш. гарадах. На школьных сцэнах сіламі выхаванцаў ажыццяўляліся пастаноўкі многіх драматычных твораў з музыкай.

У гэты час разгарнулася творчая дзейнасць кампазітара, выкладчыка і тэарэтыка Ж.*Лаўксміна*, які працаваў у Полацку, Вільні, Нясвіжы, віленскіх музыкантаў, аўтараў музычна-тэарэтычных і педагагічных прац С.*Берэнта* і М.*Крэчмера*, нясвіжскага арганіста, аўтара харавых шматгалосых кампазіцый і твораў для аргана А.*Рагачэўскага*, кампазітара і тэарэтыка, аўтара «Граматыкі мусікійскай» М.*Дылецкага*. Многім помнікам тагачаснага рэлігійнага і свецкага музычнага мастацтва (асабліва аўтарскім) уласцівы стылявыя рысы «высокага барока», якія адлюстраваліся і ў змесце кампазіцый, адзначаных яркімі, эмацыянальна-ўзнёслымі сакральнымі вобразамі, і ў іх музычнай мове, якая мае прыкметы барочнага пісьма (фактурная насычанасць, канцэртаванне, генерал-бас і г.д.). У спектаклях школьнага тэатра шырока ўжываліся як тыпова барочная агульназмястоўная мадэль, так і канкрэтныя сродкі яе ўвасаблення (алегорыя, арнаментыка, сімволіка, кантрастнае супастаўленне мастацкіх элементаў), што адбіваецца і на музычным афармленні дзей. У тэарэт.-пед. распрацоўках адлюстроўваюцца многія прыкметы барока: апеляванне да тэорыі афектаў, асноў музычнай рыторыкі і інш.




Тытульны ліст рукапісу песень Міхала Казіміра Агінскага. 1770.

Шэраг музычных помнікаў адносіцца да з'яў «нізкага барока», да музыкі бытавых песенна-танцавальных жанраў. Перш за ўсё гэта велізарны масіў *кантаў* – бытавых харавых песень свецкага (уласна кант) і рэлігійнага (псальма) зместу. Вельмі розныя па тэматыцы і жанравым складзе канты ўтварылі вял. пласт музычнага мастацтва, адлюстравалі важнейшыя гіст. падзеі і мастацкія рэаліі свайго часу. Вядомымі ўзорамі бытавой вакальнай і інструментальнай музыкі з'яўляюцца «Віленскі сшытак» (1600) і Ягелонскі (Астрамечаўскі) рукапіс, або *«Полацкі сшытак»* сярэдзіны 17 ст.




Тытульны ліст рукапісу паланэзаў Мацея Радзівіла. 1788.

У эпоху класіцызму (2-я пал. 18 ст.) у музычным мастацтве ВКЛ адбываўся значны ўздым, укараняліся музычна-тэатральныя і канцэртныя формы музычнага жыцця, а ў музычнай творчасці пашыраліся нормы класіцысцкага стылю. У гэты час у гарадах і маёнтках, у сталіцах магнацкіх латыфундый было створана больш за 20 буйных і дробных прыватнаўласніцкіх музычна-тэатральных цэнтраў, якія аб'ядноўвалі

оперна-балетныя тэатры, аркестры-капэлы і музычныя школы. Найб. значныя з іх: Нясвіжскі і Слуцкі Радзівілаў, Гарадзенскі А.Тызенгаўза, Слонімскі М.К.Агінскага, Дзярэчынскі Сапегаў. На сцэнах тэатраў ставіліся оперы і балеты вядучых еўрап. майстроў (Дж.Паізіела, Д.Чымарозы, А.Грэтры, К.В.Глюка і інш.), а таксама мясцовых аўтараў (М.Радзівіла, М.К.Агінскага). На працу ў магнацкія цэнтры запрашаліся ў якасці выканаўцаў, кампазітараў і выкладчыкаў музыканты з Беларусі, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Італіі, Францыі, Германіі. Сярод іх мясц. музыканты Л.Сітанскі, Е.Бакановіч, Я.Цэнціловіч, П.Пётух, В.*Казлоўскі*; чэшскія кампазітары і выканаўцы Я.Дусік, В.Жыўны (1-ы настаўнік Ф.Шапэна), а таксама Э.Ванжура, які пазней праславіўся як аўтар першых нац. рус. сімфоній на славянскія тэмы; італьянскія кампазітары К.Абатэ, А.Фінуцы, А.Данезі, Ф.Марыні, Дж.*Альберціні*, спевакі К.Банафіні, А.Давіо дэ Бернуцы, Дж.Кампанучы, скрыпач К.Чыпрыяні; франц. скрыпач, вучань Дж.Віёцці Дзюран (Слонім, 1765). Сярод выхадцаў з Германіі – вядомы кампазітар і тэарэтык І.А.П.Шульц і Я.Д.*Голанд*, прыдворны кампазітар і капельмайстар Радзівілаў, які зрабіў найб. значны ўклад у муз. мастацтва Беларусі.




Фрагмент гімнала «Antiphonarum A. Dominicis» з бернардзінскага кляштара ў Гародні. 18 ст.

2-я пал. 18 ст. была адзначана таксама бурным развіццём аматарскага музіцыравання і кампазітарскай творчасці. Сярод музыкантаў-аматараў вылучаюцца М.Радзівіл, Міхал Казімір і Міхал Клеафас Агінскія, Т.Касцюшка і інш. Творчасць тагачасных кампазітараў увасабляла рысы класіцызму, што адчуваецца як у вобразнай сферы, так і ў сродках музычнай выразнасці. Асабліва істотнае месца сярод музычных жанраў займала камічная опера, прадстаўленая нясвіжскімі творамі Голанда «Агатка, або Прыезд пана» (лібрэта М.Радзівіла), «Чужое багацце», «Войт Альбанскага паселішча» М.Радзівіла, «Сілы свету», «Становішча саслоўяў» Міхала Казіміра Агінскага і інш. Унікальным помнікам усх.-еўрап. школьнага тэатра была опера «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас» Р.Вардоцкага (лібрэта М.Цяцерскага), пастаўленая ў Забелах у 1789. Сімфоніі, канцэрты, уверцюры, дывертысменты пісалі Я.Сакалоўскі, Альберціні, Ванжура, А.Дураноўскі, Ю.Дашчынскі, М.Радзівіл, Ф.Яневіч і інш. З вакальных жанраў свецкай музыкі вылучаліся песня і раманс. Лірычныя і павучальныя, сентыментальныя і жартоўныя, яны прыцягвалі Голанда і Казлоўскага, Агінскіх. Вядомы таксама ананімныя лірычныя песні і канты (у т.л. з бел. тэкстамі). Сярод жанраў свецкай бытавой музыкі побач з песеннымі распаўсюджваліся і танцавальныя. Найб. колькасць звестак захавалася пра паланэз, які апынуўся ў цэнтры ўвагі як мясцовых кампазітараў-прафесіяналаў, так і аматараў. У іх творчасці выразна выявілася тэндэнцыя паэтызацыі жанру, ператварэння яго з танц. бытавой п'есы ў канцэртны твор. Найб. выразна гэта выявілася ў творах М.Радзівіла (паланэз «Паляванне»), Міхала Клеафаса Агінскага (шэраг лірычных паланэзаў), Голанда («Ваенны паланэз»), Казлоўскага (аркестравыя паланэзы).




Народныя песні, прысвечаныя Т.Касцюшку.

Культавая сфера музычнага мастацтва ВКЛ захоўвала ў той час сваю спецыфіку: каталіцкія месы, рэспансорыі, афертoрыі, як і раней, суіснавалі з правасл. і уніяцкімі стыхірамі, трапарамі і акафістамі, а пратэстанцкія харалы – з хасідскімі напевамі і мусульманскімі псалмодыямі.

*Літ.*: Б а р ы ш е в Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992; Д а д з і ё м а в а В.У. Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. Мн., 2001; Я е ж. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне. Мн., 2002; Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период. Мн., 1990; T r i l u p a i t i e n ė J. Jėzuitų muzikinė Veikla Lietuvoje. Vilnius, 1995.

***Вольга Дадзіёмава.***

### Тэатр

Тэатр ВКЛ абапіраўся на традыцыі нар. тэатралізаваных абрадаў і гульняў і на прынцыпы еўрап. рэлігійнага і свецкага тэатраў. Язычніцкія абрады, звычайна каляндарнага цыкла, уключалі элементы тэатралізаваных гульняў і былі ўласцівыя ўсім народам, якія жылі на тэр. ВКЛ. Некат. з абрадаў, інтэграваныя ў хрысціянскі каляндар, захаваліся да 20 ст. Найб. характэрныя – веснавыя і калядныя гульні, карагоды. Элементы тэатралізацыі мелі сямейна-вясельныя і пахавальныя абрады. У рэчышчы нар. традыцыі існавала і мастацтва гульцоў-вандроўнікаў – скамарохаў, мядзведзнікаў, пазней батлейшчыкаў.

Еўрапейскі рэлігійны тэатр стаў вядомым у ВКЛ з пашырэннем каталіцызму і развіццём адносін з Польшчай, дзе ў сярэдневякоўі з'явіліся літургічныя прадстаўленні. Ад касцельнай літургічнай драмы бярэ свой пачатак лялечны тэатр батлейка, які, відаць, трапіў у ВКЛ у 16 ст. (у розных рэгіёнах называўся «вяртэп», «жлоб», «шопка», «яселкі»), а на пачатку 18 ст. амаль цалкам секулярызаваўся, перайшоў ад семінарыстаў да рамеснікаў і сялян і заняў месца сярод нар. відовішчаў.



Калядоўшчыкі Дрэварыт. 19 ст.

Тэатр як інстытуцыя, з пэўнымі правіламі драматургіі і сцэнічнага ўвасаблення, паўстаў у ВКЛ дзякуючы езуітам, якія з 2-й пал. 16 ст. адкрываюць па ўсёй краіне школы, дзе да свят ці да заканчэння навучальнага года сіламі выкладчыкаў і навучэнцаў ставіліся п'есы-маралітэ, створаныя самімі езуітамі. Першыя звесткі пра такія спектаклі ў Полацку адносяцца да 1586. Адным з буйнейшых цэнтраў школьнага тэатра ў ВКЛ быў Полацкі езуіцкі калегіум. У пач. 17 ст. яго выкладчыкам М.*Сарбеўскім* напісаны першыя ў краіне трактаты па паэтыцы, дзе выкладаліся таксама правілы драмы і тэатра. Школьныя тэатры ў 17–18 ст. існавалі не толькі пры каталіцкіх, але і пры уніяцкіх і правасл. навучальных установах. Цэнтрамі школьнага тэатральнага мастацтва былі Полацк, Вільня, Нясвіж, Магілёў, Забелы, Коўна, Крожы і інш. З ВКЛ элементы літургічнага і школьнага тэатра экспартаваліся ў Масковію. Захаваўся шэраг тэкстаў школьных п'ес, звычайна на лац. або польскай мовах, але некат. героі інтэрмедый у іх размаўляюць на гутарковай бел. мове.

У 1-й пал. 16 ст. ў Польшчы пачаліся эксперыменты са свецкімі п'есамі і пастаноўкамі. Як ва ўсёй тагачаснай Еўропе, асн. тэатральным цэнтрам быў двор караля і вял. князя ВКЛ. Жыхары ВКЛ былі знаёмыя з першымі прыдворнымі пастаноўкамі, але да канца 17 ст. свецкі тэатр заставаўся экзатычнаю, «каралеўскаю» забаваю. Сапраўдны росквіт прыдворнага тэатра ВКЛ прыпаў на сярэдзіну і 2-ю пал. 18 ст., калі двары буйных магнатаў ВКЛ сталі сапраўднымі культурнымі цэнтрамі Рэчы Паспалітай. Т. зв. магнацкі (ці маянткова) тэатр развіваўся ў рэчышчы позняга барока. Ён выкарыстоўваў дасягненні тагачаснага еўрап. тэатральнага мастацтва, але будаваўся нярэдка на арыгінальнай драматургіі. Асн. выканаўцамі і арганізатарамі тэатраў былі сем'і ўладальнікаў, прыдворныя, навучэнцы шляхецкіх «рыцарскіх акадэмій», слугі. Кола гледачоў складалася з тых жа магнатаў, іх прыдворных і гасцей, шляхецкай кліентуры, часам – гараджан. Танцораў і музыкаў, якія пераважна набіраліся з прыгонных, навучалі замежныя «майстры» ў адмысловых школах, і ўзровень іх бываў дастаткова высокім. Уражвае жанравая разнастайнасць магнацкага тэатра – рэлігійныя драмы і дыялогі, трагедыі, камедыі, перапрацоўкі і пераклады з еўрап. аўтараў (Мальера, Вальтэра і інш.). Важную ролю ў спектаклях адыгрывала музыка, спевы і танец. Некат. пастаноўкі *Нясвіжскага тэатра Радзівілаў* сярэдзіны 18 ст. ўяўлялі сабой «меладрамы» – драматычныя спектаклі са спевамі або, як іх называлі ў ВКЛ, «аперэткі». Асаблівага развіцця музычны тэатр дасягнуў у 1770–90. У гэты час у *Слонімскім тэатры Агінскага,*

*Гарадзенскім тэатры Тызенгаўза*, Нясвіжскім тэатры ставіліся балеты і оперы як замежных аўтараў, так і на арыгінальныя лібрэта і музыку. Вядомымі былі таксама тэатры Радзівілаў у Слуцку, Белай, Алыцы, Сапегаў у Ружанах, Агінскіх у Дзярэчыне, Тызенгаўзаў у Паставах. Ёсць звесткі і пра існаванне ў 18 ст. лялечных тэатраў (у Г.Ф.Радзівіла). Значны ўклад у развіццё тэатра ў ВКЛ зрабіла Ф.У.*Радзівіл*, якая ў 1746 стварыла ў Нясвіжы тэатр з некалькімі абсталяванымі сцэнічнымі пляцоўкамі, дзе ставіла спектаклі паводле сваіх вершаваных і празаічных п'ес і перакладаў.




Сцэна са спектакля «Каханне – зацікаўлены суддзя» Ф.У.Радзівіл. Гравюра. 1754.

У 1765 у Варшаве адкрыўся Нац. тэатр з драматычнай, опернай і балетнай трупамі, важную ролю ў дзейнасці якога адыграў бел. драматург і публіцыст Ф.*Багамолец*. З таго часу прафесійны тэатр пачаў паступова займаць дамінуючыя пазіцыі ў ВКЛ. На сцэне Нац. тэатра выступалі акцёры – выхадцы з магнацкіх тэатраў (Слонімскага, Гарадзенскага). У 1770–90 камерцыйныя трупы пад кіраўніцтвам В.*Багуслаўскага* (кіраўніка Нац. тэатра ў Варшаве), Д.Мараўскага, Л.Перажынскага, А.Жукоўскага выступалі ў Вільні, Гародні, Менску, Нясвіжы і інш. гарадах ВКЛ. Прыдворны тэатр існаваў за кошт і на патрэбу сваіх уладальнікаў, ад якіх цалкам залежаў рэпертуар і мастацкі ўзровень, а антрэпрыза працавала на публіку і кіравалася яе густам і камерцыйнымі патрэбамі. Гэта стварала ўмовы для фарміравання прынцыпова новай тэатральнай культуры і новай драматургіі.

Папулярнымі ў ВКЛ былі і паратэатральныя відовішчы – урачыстыя шэсці, рыцарскія турніры («каруззлі»), феерверкі, вайсковыя парады. Іх звычайна ладзілі гар. ўлады і ўладальнікі буйных маёнткаў. Найб. вядомымі былі пахавальныя ўрачыстасці (pompa funebris); яны мелі адмысловы сцэнарый, які разгортваўся на працягу некалькіх дзён і ў якім удзельнічалі рамесніцкія цэхі, духавенства, войскі, навакольная шляхта. Важную ролю ва ўрачыстасцях адыгрывалі прамовы: аратарскае мастацтва, якім павінны былі валодаць усе адукаваныя людзі, набывала абрысы тэатралізацыі. Магнаты часам падтрымлівалі нар. тэатральныя формы («мядзведжая акадэмія» ў Смаргоні), якія выкарыстоўвалі ў сваіх забавах.

Сцэна са спектакля «Дасціпнае каханне» Ф.У.Радзівіл. Гравюра. 1754.




Росквіт тэатральнага мастацтва ВКЛ быў звязаны з 2 формамі тэатра – школьным і прыдворным і амаль цалкам укладваўся ў стыль барока, у яго мясцовым варыянце – сарматкага барока. Аднак тэатр ВКЛ у вельмі малой ступені стаў грунтам для пазнейшага развіцця нац. тэатраў (польск., бел., укр., літоўскага), рэмінісцэнцыі яго сталі істотнымі толькі ў 2-й пал. 20 ст. як праявы настальгіі альбо гіст. прэтэнзій.

*Літ.*: Windakiewicz S. Teatr polski przed powstaniem sceny narodowej. Kraków, 1921; Miller A. Teatr polski i muzyka na Litwie. Wilno, 1936; Estreicher K. Teatra w Polsce. T. 1–4. Warszawa, 1953; Okoń J. Dramat i teatr szkolny. Wrocław, 1970; Słownik biograficzny teatru polskiego (1765–1965). Warszawa, 1973; Софронова Л. Поэтика славянского театра XVII–XVIII вв. М., 1981; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983; Барышаў Г. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992.

***Вацлаў Арэшка.***

heraldikos šaltinis // Lietuvos miestų istorijos šaltiniai. Vilnius, 1988; Lietuvos magdeburginių miestų privilegijos ir aktai: T. 1. Jurbarkas / Sudarė A.Tyla. Vilnius, 1991; Lietuvos magdeburginių miestų privilegijos ir aktai: T. 2. Kretinga, Skuodas, Šauliai, Šventoji, Varniai, Veliuona, Viekšniai, Virbalis, Vladislavovas / Sudarė A.Tyla ir D.Žygelis. Vilnius, 1997).

Разнародныя крыніцы асвятляюць іншыя аспекты ўнутранай палітыкі ВКЛ, Рэчы Паспалітай на розных этапах іх складанай гісторыі, у т. л. народныя выступленні, «бунты» з сац., грамадска-паліт. або рэліг. афарбоўкай (Агляд крыніц гл.: Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. Мн., 1982; Мыцык Ю.А. Анализ архивных источников...; Публікацыі: БЭФ. 1959–61. Т. 1–2; Беларускі архіў. Мн., 1927. Т. 1; Акты Южной и Западной России. 1878. Т. 10; ИЮМ. 1877–78, 1888. Вып. 8–9, 17; Скрутень Й. Relacya o zamordowaniu bł. Jozafata // Зап. Чина св. Василія Великого. Львів, 1930. Т. 3; Josaphat – Hieromartyr: Documenta Romana Beatificationis et Canonizationis. Vol. 1–3. Romae, 1952–67), шляхецкія і магнацкія суполкі, канфедэрацыі (Zbiór mów i pism niektórych w czasie seymu stanów skonfederowanych Roku 1788 [б. г.]; Rembowski A. Rokosz Zebrzydowskiego: Materiały historyczne... Warszawa, 1893; «Spisek orleański» w latach 1626–1628 / Oprac. U.Augustyniak, W.Sokołowski. Warszawa, 1990), нац.-дэмакратычныя, нац.-вызваленчыя рухі, абумоўленыя ўнутранымі патрэбамі і знешняй пагрозай, а ў канцы 18 ст. падзеламі Рэчы Паспалітай [Opis władz narodowych w czasie powstania... Warszawa, 1794; [Kościuszko T.] Zbiór uniwersałów i urządzeń... Warszawa, 1794; Tadeusz Kościuszko: Jego odezwy i raporta. Uzupelnione celniejszemi aktami odnoszącemi się do powstania narodowego 1794. Kraków, 1918; Piśma Tadeusza Kościuszki / Wyd. H.Mościcki. Warszawa, 1947; Akty powstania Kościuszki. Kraków; Wrocław, 1918–55. T. 1–3; Niemcewicz J.U. Pamiętniki czasów moich. Warszawa, 1957; Архив Государственного Совета. Т. 1. Совет в царствование имп. Екатерины II-й (1768–1796 гг.). СПб., 1869; Панин В.Н. Бумаги, касающиеся первого раздела Польши // Рус. архив. 1872. № 1; Die erste Theilung Polens / Hrsg. von A.Beer. Wien, 1873. Bd. 1–2; Ostatnie lata panowania Stanisława Augusta: Dokumenta do historii drugiego i trzeciego podziału / Wyd. W.Kalinka. Poznań, 1868; Źródła do dziejów drugiego i trzeciego rozbioru Polski / Wyd. B.Dembiński. Lwów, 1902. T. 1]. З наратыўных крыніц акрамя хронік, летапісаў і соймавых дыярыушаў вял. значэнне маюць паліт. л-ра і публіцыстыка, публічныя прамовы, перапіска паліт. дзеячаў і ўраднікаў.




Акт пацвярджэння правоў Речы Паспалітай каралём Стафанам Баторыем.

**Дакументы па царкоўнай гісторыі канца 16–18 ст.** У канцы 16–18 ст. на тэр. ВКЛ існавала найбольш складаная ва Усх. Еўропе канфесіянальная структура. Рэліг. адносіны адлюстроўвалі гіст. традыцыі, узровень духоўнага развіцця грамадства, палітыку вярх. улады, духоўнай іерархіі, уплывы некат. замежных дзяржаў, пазіцыю розных пластоў насельніцтва, функцыі царк. арг-цый. Асн. хрысціянскімі цэрквамі ВКЛ, дзейнасць якіх асветлена многімі дакумент. публікацыямі, былі праваслаўная [АВАК. 1889, 1908–09, 1915. Т. 16, 33–34, 39; Акты Южной и Западной России. 1861–63. Т. 1–3; Архив Юго-Западной России. 1859, 1871–83. Ч. 1, т. 1, 4–6; АС. 1867, 1869–1904. Т. 1–4, 6–14; АЗР. 1848–53. Т. 3–5; Kulesza A. Wiara prawosławna. Wilno, 1704; Harasiewicz M. Annales ecclesiae Ruthenicae. Leopoli, 1862; Будилович А.С. Перечневая опись недвижимым церковным имениям западно-русской церкви [за X–XIX вв.]. Варшава, 1882; Материалы для истории Полоцкой епархии. Ч. 1 // Сапунов А.П. Витебская старина. Витебск, 1888. Т. 5; Голубев С.Т. Материалы для истории Западно-Российской церкви (XVIII в.) // Чтения в ист. о-ве Нестора-летописца. Киев, 1895–96. Кн. 9–10; Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов. СПб.,1897. Т. 1; Памятники православия и русской народности в Западной России в XVII–XVIII вв. Т. 1. Акты по истории заграничных монастырей Киевской епархии XVII–XVIII вв. Ч. 1–3. Киев, 1905; Беднов В.А. Православная церковь в Польше и Литве (по Volumina Legum). Екатеринослав, 1908], каталіцкая [АЗР. 1846. Т. 1; АС. 1867. Т. 1–2; БЭФ. 1959–61. Т. 1–2; ИЮМ. 1888–98. Вып. 18–27; Сапунов А.П. Витебская старина. 1883, 1885. Т. 1, 5; Социально-политическая борьба народных масс Белоруссии: Конец XIV в.–1648 г. Т. 1. Мн., 1988; Lit-



erae annae Societatis Jesu (Раздзел: Provincia Poloniae et Provincia Lituaniae. Выданне друкавалася з 1581 штогод у розных еўрапейскіх гарадах – Рым, Фларэнцыя, Неапаль і інш.); Kojałowicz A.W. Miscellanea rerum ad statum ecclesiasticum in Magno Litvaniae Ducatu pertinentium. Vilnae, 1650; [Zienkowicz M.] Synodus Diocesana Vilnensis ab... Michaele Joanne Zienkowicz... episcopo Vilnensi... Vilnae, [1744]; Rostowski S. Lituanicarum Societatis Jesu historiarum provinciarum... Vilnae, 1768; Catalogus personarum provinciae Litvanae. Vilnae, 1725–74 (выйшла каля 37 выпускаў); Theiner A. Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia... T. 2–4. Romae, 1860–64; Sawicki J. Concilia Poloniae: Źródła i studia krytyczne. T. 2. Synody diecezji wileńskiej i ich statuty. Warszawa, 1948; Acta S. C. de propaganda fide ecclesiam catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantia. Vol. 1 / Ed. A.G.Welykyj. Romae, 1953; Litterae S. C. de propaganda fide ecclesiam catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantes. Vol. 1. Romae, 1954; Congregationes particulares ecclesiam catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantes. Vol. 1. Romae, 1956; Literatura antyjezuicka w Polsce, 1578–1625 / Oprac. J.Tazbir. Warszawa, 1963; Плохий С.Н. Папские послания как источник по истории католической экспансии на Украине в XVI–XVII вв. // Историографические и источниковедческие проблемы отечественной истории. Днепропетровск, 1985], уніяцкая [АВАК. 1889, 1891, 1908–09. Т. 16, 18, 33–34; АЗР. 1851–53. Т. 4–5; Акты Южной и Западной России. 1961–65. Т. 2–3; АС. 1869, 1870–74, 1900–04. Т. 6, 9–10, 12–14; Архив Юго-Западной России. 1859, 1861, 1871, 1883. Ч. 1, т. 1, 4, 6; Ч. 2, т. 1 і інш.; Prawa y Przywileie od Naiaśn. Królów ich Mośćiów polskich y W. X. L. nadane Obywatelom Korony Polskiey y W. X. L. Religiey Greckiey, w iednośći z. S. Kościołem Rzymskim będącym. Wilno, 1632; Susza S. Cursus vitae et certamen martyrii B. Josaphat Kuncevicii. Romae, 1665; Kulczyński I. Specimen Ecclesiae Ruthenicae... Romae, 1733; Яго ж. Monologium Bazylianskie... Wilno, 1771; Ryłło M. Antiquitates Ecclesiae Ruthenicae, Sacrae Romanae Unitae cum amplificatione Caesaris Cardinalis Baronii narrationis historiae de origine Ruthenorum et eorum conversione. Supraslii, 1760; Bullae et Brevia Summorum Pontificum Sacrarum Congregationu decreta nec non Serenissimorum Poloniae Regum Diplomata. Typis Poczajoviensibus, 1767; Коялович М. Литовская церковная уния. Т. 1. СПб., 1859; Harasiewicz M. Annales ecclesiae Ruthenicae. Leopoli, 1862; Парвов П.А. Папские буллы по греко-униатскому вопросу. СПб., 1888; Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 1–2. СПб., 1897–1907.; Kossowski A. Blaski i cienie unii kościelnej w Polsce w XVII–XVIII w. w świetle źródeł archiwalnych. Lublin, 1939; Audientiae Sanctissimi de rebus Ucrainae et Bielarusjae (1658–1850). Romae, 1963–64; Josaphat – Hieromartyr: Documenta Romana Beatificationis et Canonizationis. Vol. 1–3. Romae, 1952–67; Supplicationes ecclesiae unitae Ucrainae et Bielarusjae. Vol. 1. Romae, 1960; Documenta unionis Berestensis eiusque auctorum 1590–1600 / Ed. A.G.Welykyj. Roma, 1970; Litterae basilianorum in terris Ucrainae et Bielarusjae / Ed. A.G.Welykyj. Vol. 1–2. Romae, 1979; Epistolae metropolitarum Kiioviensium catholicorum, Theodosii Rostockyj, Heraclii Lisowskyj, Georgii Kochanowicz, Josaphat Bułhak, 1788–1839 / Ed. A.G.Welykyj. Romae, 1980], рэфармацыйная [Kosman M. Archiwalia do dziejów reformacji i kontrreformacji w Wielkim Księstwie Litewskim: Zarys losów i stan obecny // Archeion. Warszawa, 1971. T. 56; Яго ж. Archiwum Jednoty Litewskiej // Там жа. 1974. T. 61; Adrianus Regenvolscius [Węgierski A.]. Systema historico-chronologicum Ecclesiarum Slavonicarum per provincias varias, Praecipue, Polonicae, Russicae, Bohemicae, Prussicae, Lituanicae, Moraviae etc. Distinctarum. Libris IV. Trajectini ad Rhenum, 1652; Wengierscki A. Libri quatuor slavoniae reformatae, continens Historiam ecclesiasticam Ecclesiarum Slavonicarum. Amstelodami, 1679; Lubieniecki S.Historia Reformationis Polonicae... Freistadii, 1682; Sandius C. Bibliotheca Anti-Trinitariorum, sive Catalogus Scriptorum... Freistadii, 1684; Jura et libertates dissidentium in religione christiana in Regno Poloniae et M. D. Lithuaniae / Wyd. D.Jabłoński [S.l.], 1708; Wotschke Th. Der Briefwechsel der Schweizer mit den Polen. Leipzig, 1908; Akta, to jest sprawy zboru krześciańskiego wileńskiego... 1557 // Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Ser. 10, z.1. Wilno, 1913; Monumenta Reformationis Polonicae et Lithuanicae. Ser. 1, z. 1. Ser. 4, z. 2. Ser. 6, z. 1. Ser. 10, z. 1. Wilno, 1911–15; Akta synodów różnowierczych w Polsce. T. 2



Акт абрання Яна III Сабескага на трон Речы Паспалітай. 1674.

(1560–1570) / Oprac. M.Sipayłło. Warszawa, 1972; Tworek S. Materiały do dziejów kalwinizmu w Wielkim Księstwie Litewskim w XVII wieku // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1969. T. 14; Lietuvos publicistai valstiečių klausimu XVI a. palaigoje–XVII a. pirmojoje pusėje / Spaudai parengė I.Lukšaitė. Vilnius, 1976; The Polish Brethren: Documentation of the history and thought of Unitarianism in the Polish-Lithuanian Commonwealth and in the Diaspora, 1601–1685. Missoula, Montana, 1980]. Менш матэрыялаў захавалася па гісторыі іудаізму, мусульманства, стараабраднiцтва (Bałaban M. Bibliografia historii żydów w Polsce i w krajach ościennych za lata 1900–1920. Z. 1. Warszawa, 1939; Baron S.W. A social and religious history of the Jews. Vol. 16. New York; London, 1976; Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Лилеев М.И. Новые материалы для истории раскола на Ветке и в Стародубье XVII–XVIII вв. Киев, 1893; Горючко П.С. Материалы для истории раскола старообрядчества в Могилевской губернии конца XVIII и начале XIX столетий. Могилев, 1902).

**Наратыўныя крыніцы канца 16–18 ст.** Вял. пласт дакументаў і наратыўных матэрыялаў дазваляе даследаваць розныя аспекты гіст.-культурных працэсаў. У канцы 16–18 ст. на змену агульнадзярж. бел.-літ. летапісам прыйшлі больш абмежаваныя па зместу, але новыя па сваёй жанравай форме, сац. тэндэнцыях мясц. летапісы, гар. хронікі. [Агляд гар. хронік гл.: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М.,1985. С. 173–236. Публікацыі: Хроника белорусского города Могилева. Собранная и писанная А.Трубницким... продолженная его сыном М.Трубницким / Пер. Н.Гортынский. М., 1887; Записки игумена Ореста // АС. 1867, 1871. Т. 2, 5; Летопись г. Витебска... // Сапунов А.П. Витебская старина. Витебск, 1883. Т. 1; Сборник летописей, относящихся к истории Южной и Западной Руси... Киев, 1888; ПСРЛ. 1975. Т. 32. Апошнія выданні Баркулабаўскага летапісу 17 ст. з каментарыямі: Мальцев А.Н. Баркулабовская летопись // АЕ, 1960. М.,1962; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975; Вайтовіч Н.Т. Баркулабаўскі летапіс. Мн., 1977; ПСРЛ. 1975. Т. 32]. Пабольшала цікавасць да хранографаў, у якіх гісторыя слав. народаў звязвалася з сусветнай і стараж. спадчынай. У спісах і друкаваных выданнях распаўсюджваліся ў Беларусі і Літве папулярныя хронікі і інш. гіст. творы вядомых гісторыкаў ВКЛ – М.Стрыйкоўскага, А.Гваньіні, пазней Ш.Старавольскага, А.Каяловіча, Я.Сцябельскага.



Метрыка ВКЛ. Кніга запісаў за 1611–18.

У 17–18 ст. значна вырасла колькасць апісанняў падарожжаў, вандраванняў, пасольстваў, складзеных замежнымі аўтарамі. Многія з гэтых прац адлюстроўваюць погляды еўрапейцаў на паліт. гісторыю ВКЛ, Літвы, Беларусі, Рэчы Паспалітай, цікавыя сваімі фактаграфічнымі рэаліямі – апісаннямі прыроды, побыту, царк.-рэліг. адносін і інш. (Материалы к проекту полного каталога сочинений о России на всех иностранных языках изданных. СПб., 1851; Кордт В. Чужеземні подорожі по Східній Європі до 1700 р. Київ, 1926; Maliszewski E. Bibljografja pamiętników polskich i Polski dotyczących. Warszawa, 1928; Грыцкевіч В.П., Мальдзіс А.I. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980; Jurginis J., Šidlauskas A. Kraštas ir žmonės. Vilnius, 1983; Белоруссия в печати XVII столетия: Библиогр. указ на иностр. яз. / Сост. М.Василевская, Мн., 1985). Асаблівай увагі заслугоўваюць запіскі і справаздачы дыпламатаў розных еўрапейскіх і азіяцкіх краін [Heidenstein R. Commentarium de bella Moscovitico. Cracov, 1585 (значныя матэрыялы пра Інфлянцкую вайну на тэр. Беларусі); Tanner B.L. Legatio Polono-Lithuanica in Moscoviam potenties Poloniae Regis ac Respublicae mandato et consensu... Norimbergae, 1689; Левинсон Н.Р. Записки Айрманна о Прибалтике и Московии 1666–1670 гг. // Исторические записки. М., 1945. Т. 17; [Mayerberg A.]. Iter in Moscoviam Augustini Liberi Baronis de Mayerberg. 1661; Bardili J. Maximilian Emanuels Hertzogs in Würtemberg... Reisen und Campagnen durch Deutschland in Polen. Lithauen, Roth- und Weissrussland... Stuttgart, 1730], пасланні папскіх нунцыяў, прыдворных і службовых асоб [Wojtyska H.D. Stan przygotowania do druku korespondencji nuncjuszów... // Studia źródłoznawcze. 1973. T. 18; Relacye nuncyuszów apostolskich i innych osób o Polsce od r. 1548 do 1690. T. 2.

Berlin; Poznań, 1864; I.A.Caligarii, nuntii apostolici in Polonia epistolae et acta 1578–1581 / Ed. L.Boratyński. Cracoviae, 1915; Totoraitis J. Vilniaus vyskupų relacijos XVII ir XVIII amziuje // Tiesos kelias, 1936; Alberti Bolognetti, nuntii apostolici in Polonia epstolae et acta 1581–1585 / A L.Boratyński p. m. collecta. P. 1–3. Cracoviae, 1923–48; Relationes status dioecesium in magno ducatu Lituaniae / Red. P.Rabikauskas. T. 1–2. Romae, 1971–78; Acta Nuntiaturae Poloniae. T. 28, vol. 1. Franciscus Simonetta (1606–1612) / Wyd. W.Tygielski. Romae. 1990].

Важныя паліт., царк.-рэліг., сац. зрухі, войны канца 16–18 ст., падзелы Рэчы Паспалітай прынеслі вял. колькасць мемуараў рознай гіст., інфармацыйнай і мастацкай вартасці (Sajkowski A. Nad staropolskimi pamiętnikami. Poznań, 1964; Skrzypek J. Bibliografia pamiętnikow polskich do 1964 r. Wrocław etc., 1976; Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII ст. Мн., 1982; Przyboś A. Pamiętnikarstwo polskie w czasach Jana III // Studia historyczne. 1985. Z. 2). Большасць гіст. мемуараў была апублікавана ў 19–20 ст., нямала засталося ў рукапісах. Сярод найб. прыкметных помнікаў, што ўзніклі на мясц. глебе, варта адзначыць дыярыушы Ф.*Еўлашоўскага*, *Афанасія Берасцейскага*, С.*Маскевіча*, Б.*Маскевіча*, Я.А.*Храпавіцкага*, Я.*Цадроўскага*, К.С.*Завішы* і інш. Палітыку кіруючых колаў ВКЛ, Рэчы Паспалітай, дзейнасць канфедэрацый, прыдворнае і прыватнае жыццё, мецэнацтва, адносіны з замежжам асвятляюць каралеўскія, а таксама магнацкія мемуары і дыярыушы Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх, Сангушкаў, вядомых духоўных іерархаў (Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, А.С.*Радзівіл*, Ю.*Радзівіл*, Міхал Клеафас *Агінскі*), прыдворных і службовых асоб. У 2-й пал. 18 ст. з'яўляюцца своеасаблівыя дакументальна-мемуарныя творы, якія належалі мясц. ураджэнцам, асветнікам, службовым асобам, прадстаўнікам польск., літ., ням., пазней і рас. «разначыннай» інтэлігенцыі, адміністратарам. Своеасаблівым дадаткам да гіст.-мемуарнай літаратуры з'яўляюцца апісанні і дзённікі, прысвечаныя падарожжам у інш. краіны, дыпламатычным місіям, значным замежным паліт. і ваен. падзеям.




Тытульны ліст «Хронікі» Я.Длугаша.

У 17–18 ст. прыкметна павялічваецца колькасць арыгінальных і перакладных мастацкіх твораў, узнікаюць першыя перыядычныя выданні. Царк.-рэліг. погляды, паліт. і ідэалагічныя канцэпцыі розных сац. пластоў прасочваюцца ў канфесіянальна-палемічнай і паліт. публіцыстыцы, дзе абмяркоўваліся праблемы дзярж. ладу ВКЛ, Рэчы Паспалітай, адносіны з Польшчай, Расіяй, царк.-рэліг. уніі, знешняй пагрозы (Памятники полемической литературы в Западной Руси. Кн. 1–3. СПб., 1878–1903; Архив Юго-Западной России. 1887, 1914. Ч. 1, т. 7–8; Кирилло-Мефодиевский сборник. Вып. 1–2. М.; Рязань, 1865–85; Пам'ятки полемічного письменства кінця XVI і поч. XVII в. Т. 1. Львів, 1906; Памятники философской мысли Белоруссии XVII–первой половины XVIII в. Мн., 1991. Асобныя публікацыі: Volanus A. De libertate politica sive civil. Cracoviae, 1572; Lisiecki A. Obrona wolności i praw Rzpltey... [S.1], 1625; Olizarowski A. De politica hominum societate... Dantisci, 1651; Rzewuski A. Kasztelana witebskiego o formie rządu republikanskiego myśli. Cz. 1–2. Warszawa, 1790). Паліт. праблемы закраналіся і ў такіх выдатных помніках бел. сатыры і публіцыстыкі, як *«Прамова Мялешкі»*, *«Ліст да Абуховіча»* (Даўгяла Дз.І. З беларускага пісьменства XVII стал.: Творы Цыпрыяна Камунякі «Ліст да Абуховіча» і «Прамова Мялешкі». Мн., 1927). Сярод значных новых крыніц па гісторыі асветы і адукацыі першынство належыць друкаваным падручнікам для школ, калегіумаў, Віленскай акадэміі, слоўнікам, лексіконам, уласным навучальным творам шкаляроў, студэнтаў, настаўнікаў, навук. выданням (найбольш поўна ўлічаны ў бібліягр. выданнях: Estreicher K. Bibliografia Polska. T. 1–34. Kraków, 1872–1951; Кніга Беларусі, 1517–1917: Зводны каталог. Мн., 1986; Čepienė K., Petrauskienė I. Vilniaus akademijos spaustuvės leidiniai, 1576–1805. Vilnius, 1976; Lietuvos TSR bibliografja. Ser. A. Knygos lietuviu kalba. T. 1. Vilnius, 1969). Апублікаваныя і архіўныя, рукапісныя матэрыялы канца 16–18 ст., асабліва новыя масавыя і статыстычныя крыніцы, на новым рэпрэзентатыўным узроўні асвятляюць розныя сферы сац., паліт., эканам., духоўнага, царк.-рэліг. жыцця грамадства, дазваляюць навукова даследаваць гісторыю ВКЛ, Беларусі, Літвы, Рэчы Паспалітай, міжнар. кантакты і сувязі.

***Георгій Галенчанка.***

# гістарыяграфія

**Абагульняльныя працы па гісторыі ВКЛ 13–16 ст.** Гісторыя ВКЛ здаўна прыцягвала ўвагу гісторыкаў-медыявістаў розных краін, навук. школ і кірункаў. Першыя абагульняльныя працы па гісторыі Беларусі і Літвы 13–16 ст. ці, у больш шырокім кантэксце, па гісторыі ВКЛ сталі з'яўляцца яшчэ ў часы яго дзярж. станаўлення. Гэту гістарыяграфію можна падзяліць на некалькі перыядаў. Крытэрыі падзелу – выразныя змены ў тэматыцы, грамадска-паліт. і этнасацыяльнай ангажыраванасці, пануючых жанрава-стылявых формах. Першы перыяд звязаны гал. ч. з развіццём агульнадзярж. летапісання ў ВКЛ. Ён завяршыўся ў 2-й пал. 16 ст. з узнікненнем хронік і твораў новых літ.-гіст. тыпаў («Хроніка» М.Стрыйкоўскага і інш.), пашырэннем арыгінальнай і перакладной гіст. пісьменнасці, прызначанай пераважна для свецкіх колаў. У фарміраванні гіст., сац. і паліт. свядомасці ўсё большую ролю пачала адыгрываць друкаваная прадукцыя. Варта параўнаць у гэтым сэнсе 2 блізкія па сваёй тэматыцы працы Стрыйкоўскага. Яго «Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсёй Русі» («Która przedtem nigdy świata nie widziała Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi», Каралявец, 1582; 2 выд., т. 1–2, Варшава, 1846) надоўга стала найб. вядомым і аўтарытэтным у ВКЛ гіст. творам. Папярэдняя праца Стрыйкоўскага – «Аб пачатках, вывадах, мужнасці, справах рыцарскіх і хатніх слаўнага народа літоўскага, жамойцкага і рускага» («O początkach, wywodach, dzielnościach, sprawach rycerskich i domowych sławnego narodu litewskiego, żemojdzkiego i ruskiego») на 4 стагоддзі стала амаль недаступным рукапісам нясвіжскіх збораў Радзівілаў (завершана ў 1576–78, надрукавана ў Варшаве ў 1978). Зусім невядомай тагачаснай навук. супольнасці засталася «Хроніка Літвы» (верагодна, ВКЛ), дадзеная для азнаямлення М.Радзівілу Чорнаму ў 2-й пал. 16 ст. яе аўтарам А.Ратундусам. Кнігадрукаванне надало некат. гіст. творам агульнадзярж. і адносна шырокую грамадскую вядомасць, спрыяла распаўсюджанню гіст., а таксама палемічных і прававых твораў з гіст. рэтраспекцыямі. У сярэдзіне 17 ст. незвычайную папулярнасць у ВКЛ набыла «Гісторыя Літвы» А.Каяловіча («Historia Litvanae», ч. 1–2, Гданьск, Антверпен, 1650–69), напісаная пераважна на падставе Стрыйкоўскага. Гарадскія рукапісныя хронікі 17–сярэдзіны 18 ст. задавальнялі культ. патрэбы мяшчанства і духавенства Магілёва, Віцебска, Слуцка (гл. Магілёўская хроніка, Віцебскі летапіс). 3-і перыяд – 2-я пал. 18 ст., да падзелаў Рэчы Паспалітай. Многія гістарыяграфічныя творы гэтага перыяду прасякнуты агульнаеўрапейскімі асветніцкімі і рэфарматарскімі тэндэнцыямі, адлюстроўваюць развіццё нац.-дэмакратычных, шляхецка-кансерватыўных, іншых грамадскіх і паліт. рухаў. Гісторыя ВКЛ і Беларусі закранаецца ў працах гэтага перыяду фрагментарна. Пад патранатам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага выйшла падрыхтаваная А.Нарушэвічам, прыхільнікам моцнага манархічнага ладу, «Гісторыя польскага народа» (Naruszewicz A. Historia narodu polskiego od początku chrześcijaństwa, т. 1–7, Варшава, 1780–1824, даведзена да Крэўскай уніі) – 1-я спроба сінтэтычнага апісання гісторыі палякаў. З канца 18 ст. пачынаюць складвацца контуры вялікадзяржаўнай рас. дактрыны ў адносінах да «рус-

кіх» зямель Рэчы Паспалітай, паскораныя яе падзеламі. Асн. абрыс яе прасочваецца ўжо ў заканадаўчых актах і маніфестах Кацярыны II, службовых мемарыялах, палемічных артыкулах у перыядычным друку, адпаведных археаграфічных выданнях. Станаўленне канцэптуальна цэласнай і пашыранай на падставе «вытрыманых» гіст. крыніц гісторыі «рускіх» і іншых зямель ВКЛ адбылося пазней пад непасрэдным уплывам дзярж.-паліт. рэчаіснасці, якая склалася пасля ўключэння бел., укр. і часткова літоўскага арэалаў у склад Рас. імперыі, развіцця супярэчлівых сац.-паліт. тэндэнцый у метраполіі і далучаных да яе зах. губернях. Гал. цэнтрамі фарміравання новых гіст. ідэй і канцэпцый сталі вышэйшыя навуч. ўстановы – Віленскі, Маскоўскі і Пецярбургскі ун-ты. Першыя спробы комплекснага асвятлення гісторыі Беларусі, Літвы, ВКЛ пачаліся амаль адначасова прадстаўнікамі 2 асн. гістарыяграфічных плыняў (польскай і расійскай) пасля паўстання 1830–31 і выкліканага ім грамадска-паліт. рэзанансу. Прафесар Віленскага у-та, старшыня польскага Патрыятычнага таварыства ў 1830–31 І.Лялевель стварыў 1-ы навук. сінтэз аб'яднанай і ўзаемазалежнай гісторыі Літвы і Русі, па сутнасці, 1-ы абагульняльны агляд «літоўска-рускай» дзяржаўнасці (Lelewel I. Dzieje Litwy i Rusi aż do unii z Polską w Lublinie 1569 zawartej opowiada..., Лейпцыг, 1839). Ён паспрабаваў даць комплексную панарамную характарыстыку іх унутранага развіцця, дзярж.-паліт. адносін, знешніх фактараў, у т.л. дзярж. і царкоўных уній з Польшчай і Захадам. Кніга пачынаецца з часоў Кіеўскай Русі і заканчваецца Люблінскай уніяй 1569. На думку даследчыка, ВКЛ было асн. пераемнікам гіст. і культ. спадчыны Кіеўскай Русі, што садзейнічала яго ўнутранаму развіццю і знешняй устойлівасці. «Гаспадарства ўзнікла на рыштаваннях тагачаснай Русі, – пісаў Лялевель, – і прыстасаванні да іх нападаючай Літвы». Рэспубліканскія погляды Лялевеля адбіліся ў яго ідэалізацыі абшчынных парадкаў, свабоды і роўнасці, у яго жорсткай крытыцы феад. парадкаў у ВКЛ, самаўпраўства і панавання арыстакратыі, у яго прыхільнасці да саслоўна-прадстаўнічага дзярж. ладу (шляхецкага). Праца Лялевеля ахоплівае розныя бакі этнічнай, царкоўна-рэлігійнай, грамадскай, эканам. гісторыі Літвы і Русі. Ён прытрымліваўся класавай ацэнкі сац. працэсаў, ускладваў гіст. надзеі на дзейнасць сярэдніх і ніжэйшых пластоў грамадства, з улікам знешніх фактараў шукаў унутраныя прычыны для тлумачэння буйных паліт. зрухаў, дзярж. і царкоўных уній. Па сваёй рознабаковасці, этнічнай і паліт. талерантнасці ў асвятленні самага значнага перыяду фарміравання і развіцця ВКЛ і па сваёй гал. тэматыцы, звязаўшай Русь і Літву у адным дзярж.-паліт. рэчышчы, кніга Лялевеля засталася унікальнай з'явай у польска-літоўскай гістарыяграфіі. Наступныя абагульняльныя працы польскіх і літоўскіх гісторыкаў адасаблялі гісторыю Літвы і Русі або гісторыю Літвы і Польшчы, Літвы і ВКЛ ці разглядалі больш вузкія сферы (гл., напр.: Narbutt T. Dzieje starożytne narodu litewskiego. T 1–9. Wilno, 1835–41; Jaroszewicz J. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacyi, od czasow najdawniejszych do końca wieku XVIII. Cz. 1. Wilno, 1844).

1830-я г. і асабліва 1860-я г. адметныя паскораным высяляваннем розных славянафільскіх і часткова на іх аснове (шляхам іх пэўнага пашырэння і ўдакладнення) рас. вялікадзяржаўных канцэпцый гісторыі «Заходняй Русі». Менавіта ў гэты перыяд пры вырашальным удзеле гісторыкаў М.П.Пагодзіна і С.П.Шавырова складваюцца першапачатковыя абрысы той канцэпцыі, якая атрымала пазней назву «тэорыя афіцыйнай народнасці». Яна была прызначана абгрунтаваць святасць і непахіснасць рас. манархіі і дзярж. ладу, а ў сваім рэгіянальным кантэксце – гіст. правамернасць і законнасць «вяртання» ў Рас. імперыю «рускіх» зямель Рэчы Паспалітай. Яна выкарыстоўвалася ў мэтах абгрунтавання імперскай палітыкі ў далучаных землях ВКЛ, Рэчы Паспалітай і супрацьстаяла паланізацыйным і нац.-вызваленчым працэсам. Не выпадкова пасля паўстанняў 1830–31 і 1863–64, у якіх удзельнічалі і пэўныя слаі карэннага насельніцтва Беларусі і Літвы (пераважна з ліку шляхты, каталіцкага, уніяцкага духавенства), выйшлі у свет панрасійскія гіст. працы, прысвечаныя гісторыі «Заходняй Русі» 13–16 ст. Калі заснавальнікі тэорыі афіцыйнай народнасці – міністр нар. асветы С.С.Увараў, Пагодзін і Шавыроў – праецыравалі яе на агульнарускі гіст. фон, то ў кантэксце «Заходняй Русі» яе першым абгрунтаваў М.Г.Устралаў (Устрялов Н. Русская история. Ч. 1. 2 изд. СПб., 1839. Раздел «Исследование вопроса, какое место в русской истории должно занимать княжество Литовское»). Ён заклаў асновы т.зв. «заходнярускай афіцыйнай ідэалогіі». Згодна з асн. парадыгмамі гэтай канцэпцыі, для ўсёй хрысціянскай Русі з даўніх часоў было характэрна спалучэнне 3 «прыроджаных» духоўных імператываў: праваслаўя, самадзяржаўя, народнасці. Устралаў звярнуў увагу на тэрытарыяльную, дэмаграфічную,



культ. і рэліг. перавагу «рускага» насельніцтва ВКЛ над этнічнымі літоўцамі. Гісторыю ВКЛ 14–18 ст. ён выразна падзяліў на 2 часткі: «Рускія княствы, – пісаў ён, – на захад ад Дняпра, акрамя Галіцыі, што далучылася да Польшчы, зліліся таксама ў адно цэлае і ўтварылі разам з літоўскім народам самастойную дзяржаву, пад імем Вялікага княства Літоўскага, галавою якога быў дом Гедзіміна». «Заходняя Русь да канца XVI стагоддзя заставалася пад уладай літоўскіх князёў, у родзе Гедзіміна, але таксама, як і Усходняя, уратавала сваю веру, сваю мову, свае грамадзянскія статуты. Такім чынам, самыя моцныя сувязі звязвалі яе з Усходняй Расіяй, і народ, свята зберагаючы законы прабацькоў, неаднаразова паказваў найжывое жаданне вярнуцца ў падданства Цара праваслаўнага, цэлымі абласцямі далучаючыся да яго дзяржавы». Па словах аўтара, рус. княствы на З ад Дняпра яшчэ з часоў Гедзіміна зліліся ў адно цэлае і разам з літоўцамі ўтварылі бліскучую, магутную і самастойную дзяржаву. Пасля 1569 на землях Зах. Русі ўсталявалася «няволя польская, цяжэйшая за татарскую».

Ідэалагічная палеміка вакол гіст. шляхоў развіцця Зах. Русі прывяла да першых спроб напісання паліт. і царкоўна-рэліг. гісторыі Беларусі як самастойнага аб'екта гіст. даследаванняў (Турчинович О.В. Обозрение истории Белоруссии с древнейших времен. СПб., 1857), што, аднак, не вельмі замацавалася на фоне пануючай «заходнярускай» гістарыяграфіі.

У 1850–60-я г. апазіцыйныя гістарыяграфічныя тэндэнцыі сталі праяўляцца таксама сярод некаторых украінскіх гісторыкаў (М.І.Кастамараў і інш.), якія ў сваёй федэратыўнай канцэпцыі «двух рускіх народаў» падкрэслівалі больш моцныя гіст. сувязі Украіны са славянскай супольнасцю ў параўнанні толькі з укр.-рускімі адносінамі.

Задачу тэарэтычнага і крыніцазнаўчага абгрунтавання гіст. і этнаграфічных правоў Расіі ў адносінах да Зах. Русі пасля паўстання 1863–64 (разам з крытыкай польскіх прэтэнзій на аднаўленне Рэчы Паспалітай у межах 1772, федэратыўнай і некат. іншых укр. канцэпцый ) узяў на сябе ураджэнец Гродзенскай губ., выкладчык Пецярбургскай духоўнай акадэміі М.В.Каяловіч (Коялович М.О. Чтения по истории Западной России. СПб., 1864). Ён пашырыў і ў значнай ступені ўдакладніў гіст. погляды Устралава. Яго канцэпцыя была панрасійскай славянафільскай (адначасова і антыпольскай, улічваючы заходнееўрапейскі характар польскай цывілізацыі). Паводле яго разумення, Зах. Русь ахоплівала Беларусь, зах. Маларосію (Украіну) і Літву ва ўласным сэнсе слова. Дзяржаўнасць спачатку сфарміравалася ў межах рус. арэала Зах. Русі, а потым пад націскам перасяленчых рухаў (асабліва пасля мангольскага нашэсця) была ўспрынята суседнімі літоўцамі. Да гэтага аб'яднаўчага працэсу пад пагрозай Нямецкага ордэна з часам далучыліся і жамойты, якія ў 13 ст. ужо ўтварылі свае дзярж. формы. Гісторыя Зах. Русі да канца 18 ст., сцвярджаў Каяловіч, была прасякнута барацьбой польска-каталіцкай і руска-правасл. цывілізацый. Збліжэнне з Польшчай, Люблінская і Берасцейская уніі дэфармавалі духоўнае жыццё ў ВКЛ, апалячылі, акаталічылі значную частку заходнярускай шляхты, але асн. пласты народа нязменна цягнуліся да Расіі, бо адчувалі сваё племяннное (этнаграфічнае), культ., моўнае і рэліг. адзінства. Асн. апорай Русі з часоў фарміравання маскоўскага самадзяржаўя з яго земскімі саборамі, нар. прызнаннем і непахісным праваслаўем Каяловіч лічыў цэнтр. землі Расіі, якія, на яго погляд, захоўвалі сваю згуртавальную, матэрыяльную, духоўна-цывілізацыйную і абарончую ролю і ў сярэдзіне 19 ст. Свае меркаванні Каяловіч падмацоўваў прыкладамі са шматлікіх гіст. крыніц (летапісаў, хронік, заканадаўчых актаў і інш.), у т.л. знойдзеных і апублікаваных ім асабіста. У яго публікацыях выкарыстоўваліся і некат. іншыя аргументы: прэтэнзіі Польшчы на землі Беларусі і Украіны ў межах 1772 не мелі пад сабой натуральных культ., канфесіянальных і этна-гістарычных падстаў і г.д. Само разуменне народа сярод прыхільнікаў тэорыі афіцыйнай народнасці (з гал. апорай на сялянства) прыкметна адрознівалася ад поглядаў апазіцыйнай польскай гістарыяграфіі з яе акцэнтацыяй паліт. ролі шляхецкага стану ВКЛ і Польшчы, што характэрна нават для Лялевеля. Канцэпцыя Каяловіча ў сваіх асн. палажэннях арганічна ўпісалася ў афіцыёзную рас. гістарыяграфію і публіцыстыку. На спрошчаным узроўні яна была размножана ў шматлікіх навуч. і палемічных публікацыях. Выключна адмоўная ацэнка яго поглядаў была дадзена з боку дэмакратычнай і ліберальнай грамадскасці 2-й пал. 19 ст. і панегірычныя – з боку афіцыёзных і царкоўных колаў. У навейшай гістарыяграфіі погляды Каяловіча былі рэзка раскрытыкаваны У.І.Пічэтам, адным з заснавальнікаў савецкай канцэпцыі ўтварэння ВКЛ У.Ц.Пашутам, М.М.Улашчыкам, Дз.У.Каравым і інш.



2-я пал. 19–пач. 20 ст. адзначаны вял. зрухамі ў развіцці гіст. даследаванняў на Украіне. З даследчыкаў шырокага профілю, заснавальнікаў т.зв. «кіеўскай школы» пры Кіеўскім ун-це звычайна называюць Кастамарава, У.Б.Антановіча, М.С.Грушэўскага. Погляды гэтых гісторыкаў на «літоўскі» перыяд у развіцці ўкр. і бел. зямель нярэдка прынцыпова розныя, але некат. метадалагічныя рысы, дэмакратычны, народніцкі характар іх прац, непрыняцце распаўсюджанага ў рас. гістарыяграфіі атаясамлівання дзяж. і нар. гісторыі збліжаюць іх. У працах Антановіча і яго навук. апанента М.П.Дашкевіча падкрэслены своеасаблівы, пераважна мірны характар фарміравання ВКЛ у 13–14 ст., захаванне традыцый старога паліт. ладу, узаемадзеянне 2 пануючых этнаграфічных і культ.-бытавых стыхій. У адрозненне ад Антановіча, які лічыў, што саперніцтва літоўскай і «рускай» народнасцей у паліт. і духоўным жыцці ВКЛ мела драматычныя вынікі ўжо на ранніх этапах яго гісторыі, Дашкевіч меркаваў, што гэты працэс пачаўся пасля уніі з Польшчай 1385. Абодва даследчыкі адзначаюць вялікі ўплыў «рускіх» дзярж. інстытутаў, матэрыяльных і дэмаграфічных рэсурсаў, духоўнай і пісьмовай культуры на Літву, прычым, паводле слушнай заўвагі Пашуты, Дашкевіч першы паставіў пытанне пра сінтэз некат. літоўскіх і рускіх элементаў у грамадскіх, паліт. і культ. адносінах ВКЛ (Дашкевич Н.П. Литовско-Русское государство, условия его возникновения и причины упадка // Университетские известия. Киев, 1882. № 3, 5, 8–10; Яго ж. Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885).

Значнай вяхой у развіцці ўкр. гістарыяграфіі канца 19–пач. 20 ст. сталі абагульняльныя працы. Найб. аб'ёмнай і тэматычна разгорнутай была шматтомная праца М.С.Грушэўскага «Гісторыя Украіны-Русі». Як прафесійны гісторык, ён адзін з першых стаў даследаваць гісторыю Украіны ў шырокіх сувязях з грамадска-паліт., сац. і культ. працэсамі. Некалькі тамоў яго працы асвятляюць перыяд станаўлення і развіцця ВКЛ (Грушевський М. Історія України-Руси. Т. 4. XIV–XVI віки – відносини політичні. Київ; Львів, 1907; Т. 5. Суспільно-політичний і церковний устрій і відносини в українсько-руських землях XIV–XVII в. Львів, 1905; Т. 6. Житє економічне, культурне, національне XIV–XVII віків. Київ; Львів, 1907). Для прац Грушэўскага характэрны выразны этнацэнтрызм, комплексны падыход да ацэнкі гіст. падзей, ацэнка нац. гісторыі як гісторыі ўсіх пластоў народа (княжацкіх дынастый, паноў, шляхты, магнатаў, сялянства, мяшчанства, казацтва), увага да дзярж.-паліт. ладу, сац. аспектаў, царкоўна-рэліг. адносін, культ.-нац. рухаў. Гісторыя Беларусі закранаецца ў творах Грушэўскага гал.ч. пры даследаванні агульнагіст. працэсаў, што развіваліся ў ВКЛ, або з'яў, агульных для ўкр. і бел. зямель (грамадска-паліт. традыцыі, духоўнае жыццё, царква, брацтвы і інш.). Грушэўскі адзначаў асобную ролю бел. земляў у паліт. і духоўным развіцці ВКЛ, што тлумачыў іх геапалітычным становішчам і больш доўгім знаходжаннем у складзе гэтай дзяржавы. Працы Грушэўскага вылучаюцца комплексным выкарыстаннем гіст. крыніц, развітым навук. апаратам, што ператварае іх у своеасаблівыя навук. даведнікі.

Гісторыі Беларусі і Літвы прысвечаны грунтоўныя навук. даследаванні М.К.Любаўскага, М.В.Доўнар-Запольскага, І.І.Лапы, Ф.І.Леантовіча, М.А.Максімейкі, І.А.Маліноўскага [Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания Первого Литовского Статута. М., 1892; Яго ж. К вопросу об удельных князьях и местном управлении в Литовско-Русском государстве. СПб., 1894; Яго ж. О распределении владений и об отношениях между великими и другими князьями Гедиминова рода в XIV и XV вв. Т. 1. М., 1896; Яго ж. Литовско-Русский сейм. М., 1900; Яго ж. Основные моменты истории Белоруссии. М., 1918; Яго ж. Літоўска-Беларуская дзяржава ў пачатку XVI сталецьця // Чатырохсотлецьце беларускага друку. Мн., 1926; Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Яго ж. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569–1586): Опыт исследования политического и общественного строя. Т. 1. СПб., 1901; Яго ж. Великое княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Леонтович Ф.И. Сословный тип территориально-административного состава Литовского государства и его причины // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1895. № 6–7; Яго ж. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1–3. СПб., 1897–98; Яго ж. К истории административного строя Литовского государства. Варшава, 1899; Яго ж. Литовские господари и центральные органы



управления до и после Люблинской унии // Юрид. зап., изд. Демидовским юрид. лицеем. 1908. Вып. 1; Максимейко Н.А. Сеймы Литовско-Русского государства до Люблинской унии 1569 г. Харьков, 1902; Малиновский И. Рада Великого Княжества Литовского в связи с боярской думой древней России. Ч. 2, вып. 2. Томск, 1912]. Іх працы – вяршыня рас. (а таксама беларускай і ўкраінскай) гістарыяграфіі канца 19–першых дзесяцігоддзяў 20 ст. Для гэтых даследчыкаў характэрна ўвага да грамадска-паліт., саслоўнай, прававой гісторыі ВКЛ, некат. аспектаў дзярж.-эканам., арганізацыйных, фіскальных функцый.

Аўтарам шырокага гіст. сінтэзу, складзенага на падставе курса лекцый у Маскоўскім ун-це, стаў Любаўскі. Найб. значная абагульняльная яго праца па гісторыі ВКЛ – «Нарыс гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы да Люблінскай уніі ўключна» (Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1910; 2 изд. 1915). Выданне гэтай працы, як адзначыў у прадмове аўтар, стала неабходным з-за адсутнасці даступных абагульняльных дапаможнікаў, а ў навук. сэнсе – для вывучэння парадаксальна розных шляхоў гіст. развіцця Літоўскай і Паўн.-Усх. Русі і тым самым для лепшага разумення станаўленя і эвалюцыі апошняй. Любаўскі стаў асн. пачынальнікам тыпалагічна-параўнальнага метаду ў вывучэнні гісторыі ВКЛ. У гістарыяграфіі яго традыцыйна адносяць да гісторыкаў-пазітывістаў дзярж.-прававой школы, што патрабуе значнай карэкціроўкі. Любаўскі імкнуўся да шырокага асвятлення гісторыі ВКЛ, аднак недахоп сур'ёзных культуралагічных і сац.-эканам. прац не даў магчымасці ажыццявіць гэту задуму. Асн. тэма «Нарыса» Любаўскага – паліт. эвалюцыя ВКЛ з 13 ст. да Люблінскай уніі 1569, асвятленне гал. пераломных этапаў, пераўтварэнняў і зрухаў, што слушна звязваецца даследчыкам з развіццём знешне- і ўнутрыпаліт. абставін і грамадскіх адносін. Значная ўвага адводзіцца характарыстыцы дзярж. ладу, зменам дзярж.-адм. сістэмы, развіццю сац.-паліт. рухаў, цэнтр. і мясц. кіравання, прывілеям пануючаму саслоўю, землеўладанню, становішчу сялянства і мяшчанства. Прычынамі своеасаблівай паліт. эвалюцыі ВКЛ і збліжэння з Польшчай у 15–16 ст. аўтар лічыць першапачатковую слабую цэнтралізацыю дзярж. ладу, што часткова тлумачыцца даволі працяглым захаваннем паліт. спадчыны часоў Кіеўскай Русі, супярэчнасцямі паміж невял. Літвой і «Літоўскай Руссю» з яе неагляднай тэрыторыяй, вял. насельніцтвам, гаспадарчымі і ваенна-паліт. магчымасцямі, уласнымі інтарэсамі магнатаў і шляхты, націскам з боку Нямецкага ордэна, а з канца 15 ст. Маскоўскай Русі і Польшчы. Люблінскую унію 1596 аўтар ацэньвае як канец самастойнай гісторыі ВКЛ. Навуковай базай для Любаўскага паслужылі яго ўласныя папярэднія працы (пра сойм, абл. падзел ВКЛ), а таксама «Гісторыя Украіны-Русі» Грушэўскага, працы польскага гісторыка права С.Кутшэбы і інш. У дадатку да кнігі аўтар змясціў тэксты асн. агульназемскіх і абласных прывілееў. Асн. прычынай своеасаблівасці дзярж. ладу ВКЛ, яго паліт. слабасці Любаўскі лічыў старажытную карэнную аселасць мясц. насельніцтва Літвы і Зах. Русі – ад сялян, што спакон веку жылі тут «племяннымі гнёздамі», да паноў, баяр і князёў, якія стагоддзямі захоўвалі свае ўладанні. Гэта «вячыстае» ўстойлівае землеўладанне мясц. баяр (у адрозненне ад маскоўскіх, што жылі гасударавым дараваннем) разам з такімі ж старадаўнімі «вячыстымі» гарадамі забяспечылі нехарактэрную для Маскоўскай дзяржавы ўстойлівасць мясц. саюзаў землеўласнікаў, гараджан, сялян, паліт. аб'яднанняў. Над усім гэтым моцна арганізаваным грамадствам можна было б надбудаваць уплывовую цэнтр. ўладу, калі б вял. князі ВКЛ праяўлялі «больш творчай волі і розуму», а не абмяжоўваліся нязначнымі зменамі і рэформамі паводле прынцыпу «мы старыны не рушым, а навін не ўводзім». Другой гал. прычынай аўтар лічыў уплыў Польшчы. Першая унія ўжо дала землеўласнікам польскія правы і вольнасці, асабліва важнае права выбіраць вял. князя, садзейнічала пашырэнню саслоўных і паліт. прывілееў землеўласнікаў (што яшчэ больш абмяжоўвала вярхоўную ўладу), развіццю феадалізму, які разлажыў дзяржаву і прывёў да росту абласнога і вотчыннага патрыятызму замест агульнадзяржаўнага. Высновы Любаўскага заслугоўваюць увагі, але яны далёка не поўныя, да таго ж недакладныя. Перабольшана не толькі ступень аселасці насельніцтва (бо ўжо з 13 ст. ішла масавая міграцыя з Пд пад уплывам мангола-татарскага нашэсця і татарскіх набегаў, адбываліся войны, перасяленні сялян у гарады, каланізацыйныя і інш. працэсы), але і рэальныя магчымасці вярхоўнай улады. Пры тым раскладзе дэмаграфічных, матэрыяльных і інш. рэсурсаў у Літве і «Літоўскай Русі» варыянт абсалютнай манархіі (аналагічнай маскоўскаму



самаўладдзю) быў немагчымы. Спрэчнай з'яўляецца і трактоўка працэсу ўзнікнення буйной зямельнай уласнасці ў «Літоўскай Русі», звязанага не столькі са шматпакаленнай аселасцю баярства, колькі з асаблівасцямі фарміравання шляхецкага саслоўя ў 15–16 ст., інтарэсамі і палітыкай вярхоўнай улады і пануючага асяроддзя.

Калі не ў канцэптуальным, то ў навукова-метадычным плане асн. працы Любаўскага, Доўнар-Запольскага і Грушэўскага надоўга вызначылі новыя прафесійныя крытэрыі гіст. даследаванняў. Аб высокім узроўні рас. гістарыяграфіі гісторыі ВКЛ у пач. 20 ст. сведчыць таксама праца прафесара Пецярбургскага ун-та А.Я.Праснякова, які фактычна стаяў на глебе эканам. матэрыялізму. Сац.-эканам. інтарэсы вярхоўнай улады, мясц. князёў з іх вотчынамі, розных інш. пластоў насельніцтва знаходзяцца ў цэнтры яго абагульняльнай працы пры апісанні ўсіх унутры- і знешнепаліт. працэсаў і сац.-паліт. рухаў [Пресняков А.Е. Лекции по русской истории (читанные автором в 1908–1910 гг.). Т. 2, вып. 1. Западная Русь и Литовско-Русское государство. М., 1939]. Храналагічна курс лекцый ахоплівае перыяд ад часоў Кіеўскай Русі да Люблінскай уніі і панавання Стафана Баторыя. Упершыню ў навук. і дыдактычных працах такога ўзроўню гісторыя Зах. Русі – Беларусі і Украіны – прадстаўлена самастойным аб'ектам даследавання і ў пэўнай ступені суб'ектам уласнай гісторыі і тэматычна вылучана з агульнай гісторыі «Літоўска-Рускай» дзяржавы. Нямала месца адведзена характарыстыцы нац.-канфесіянальных адносін, дзярж. ладу, паліт. кансалідацыі шляхты, запрыгоньванню сялянства, развіццю інш. форм сац. залежнасці. Праснякоў сфармуляваў 2 новыя канцэпцыі, якім была наканавана доўгая дыскусійная гісторыя ў пазнейшай гістарыяграфіі. Па-першае, Кіеўская Русь, на яго думку, была пралогам зараджэння 3 роднасных народнасцей – беларускай, украінскай і рускай. Па-другое, у адрозненне ад Любаўскага і задоўга да пазнейшай манаграфіі Лапы, аўтар прыйшоў да высновы, што дзяржаўнасць ВКЛ захоўвалася і пасля Люблінскай уніі. Лекцыі Праснякова былі апублікаваны толькі ў 1939, а ў пач. 20 ст. былі вядомы толькі абмежаванаму колу пераважна студэнцкай моладзі. У канцы 19–пач. 20 ст. ў межах нац.-дэмакратычнага руху паскорана развівалася сталая ўласна бел. гістарыяграфія. Публікацыі па гісторыі Беларусі з'яўляліся на старонках газ. «Наша ніва», некат. іншых перыядычных і асобных выданняў. У 1910 у Вільні апублікавана папулярная «Кароткая гісторыя Беларусі» В.Ю.Ластоўскага. Асветніцкая і грамадска-паліт. арыентацыя прац Ластоўскага і інш. падобных публікацый, у якіх падкрэслівалася багатая шматвяковая гісторыя бел. народа, выклікала вострае раздражненне прыхільнікаў шавіністычна-асімілятарскай палітыкі. Пераважна для дыпламатычных колаў і замежных чытачоў прызначалася брашура Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі», якая на розных мовах была надрукавана ў 1918 у час акупацыі Беларусі кайзераўскімі войскамі. У канцы 1910-х г. невял. курс лекцый па беларусазнаўстве быў падрыхтаваны пад рэдакцыяй Пічэты для слухачоў Бел. нар. ун-та (Курс белоруссоведения. М., 1918–20).

1920-я–пач. 1930-х г. азнаменаваны значным развіццём канкрэтна-гіст. даследаванняў у Бел. дзярж. ун-це і Ін-це бел. культуры (пераўтвораны ў 1929 у Акадэмію навук). Аднавілася археаграфічная дзейнасць, сталі выходзіць перыядычныя навук. выданні. Пашырэнне аўтарытарных тэндэнцый перакрэсліла гэтыя пачынанні. Не выйшла ў свет «Гісторыя Беларусі» Доўнар-Запольскага, быў забаронены для ўжытку школьны падручнік У.М.Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» (Мн., 1919), напісаны з марксісцкіх пазіцый і прысвечаны ў т.л. гісторыі «Літоўска-Беларускай дзяржавы» 13–16 ст. У сав. гістарыяграфіі ўсталяваліся схемы гіст. працэсу ў Беларусі, якія ў значнай ступені былі заснаваны на дваранска-клерыкальнай і імперскай гістарыяграфіі. Навук. распрацоўкі гісторыі Беларусі 13–16 ст. змясціліся гал.ч. у сферу сац.-эканам., часткова этнагіст., знешнепаліт., культуралагічнай тэматыкі. Некаторае ажыўленне навуковай дзейнасці пачалося з сярэдзіны 1950-х г. Значна раскаванай ў некат. паліт. канстатацыях і для свайго часу грунтоўнай працай была манаграфія Пашуты «Узнікненне Літоўскай дзяржавы» (Пашуто В.Т. Возникновение Литовского государства. М., 1959). Канцэптуальныя погляды афіцыйнай бел. гістарыяграфіі 1960–80-х г. без істотных змен выкладаліся ў абагульняльных акадэмічных выданнях. Адносна аб'ектыўным з далучэннем новых матэрыялаў быў 1-ы том 6-томнай «Гісторыі Беларускай ССР» (Мн., 1972). Паказальна, што шматвяковай гісторыі Беларусі з найстаражытнейшых часоў да адмены прыгоннага права ў 1861 адведзена менш як чвэрць агульнага аб'ёму гэтага выдання, а гісторыі часоў ВКЛ да канца 16 ст. – менш за 5%.



Каштоўныя працы бел. і рас. навукоўцаў па гісторыі гарадоў Беларусі, сац., паліт. і культ. працэсаў (А.П.Грыцкевіча, З.Ю.Капыскага, М.Ф.Спірыдонава, у Маскве – А.А.Зіміна, М.М.Улашчыка, Б.М.Флоры, Г.Л.Харашкевіч) паступова рыхтавалі глебу для больш шырокіх гіст. аглядаў. Тым не менш вял. комплексная праца па гісторыі Беларусі 13–16 ст., якая доўга пісалася групай гісторыкаў АН БССР, так і засталася ў рукапісе. Публічны перагляд некат. устарэлых поглядаў і значнае абнаўленне матэрыялаў у абагульняльных гіст. працах пачаліся з акадэмічнага выдання «Нарысы гісторыі Беларусі» (Ч. 1–2. Мн., 1994–95).

Замежная бел. гістарыяграфія не мае комплексных навук. прац па гісторыі Беларусі 13–16 ст., што ў значнай ступені тлумачыцца адсутнасцю ў замежных гісторыкаў магчымасці карыстацца асн. архіўнымі фондамі і нярэдка занадта радыкальным стаўленнем да канцэптуальных і фактаграфічных набыткаў рас., а тым больш сав. гіст. навукі. Пазітыўная роля некат. замежных прац прасочваецца часцей у крытыцы афіцыёзных рас. стэрэатыпаў, памылак у навук. працах бел. і інш. гісторыкаў, у абгрунтаванні патрыятычнага і грамадска-паліт. значэння сярэдневяковай і новай гісторыі Беларусі на фоне ўсх.-слав., еўрапейскага і сусветнага гіст. працэсу. У палеміцы замежных і айчынных гісторыкаў 1960–80-х г. паліт. акцэнты нярэдка пераважалі над навуковымі, што бачна, напрыклад, у публікацыях Л.С.Абэцэдарскага і яго замежнага бел. апанента П.Урбана (Абецадарскі Л. У святле неабвержных фактаў. Мн., 1969; Урбан П. У сьвятле гістарычных фактаў. Мюнхэн; Нью Ёрк, 1972).

У міжваенны перыяд у непасрэднай сувязі з развіццём уласнай дзяржаўнасці значных вынікаў дасягнулі польскія і літоўскія даследчыкі па асобных кірунках гістарыяграфіі. Трэба адзначыць працы польскіх гісторыкаў О.Галецкага, С.Заянчкоўскага, Л.Калянкоўскага, В.Камянецкага, С.М.Кучынскага, У.Пацехі, Г.Пашкевіча, К.Хадыніцкага, літоўскіх – К.Авіжоніса, З.Івінскіса, Ё.Матусаса, А.Шапакі і інш. Асабняком стаяць грунтоўная праца польска-літоўскага гісторыка Г.Лаўмянскага, аднаго з найбольш выдатных даследчыкаў ранніх этапаў гісторыі ВКЛ (Łowmiański H. Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. T. 1–2. Wilno, 1931–32). На шырокім параўнальным фоне, з выкарыстаннем незвычайна вялікага кола разнастайных крыніц па гісторыі балцкіх народаў ён грунтоўна даследаваў працэс засялення, паліт.-тэрытарыяльную структуру этнаграфічнай Літвы, фарміраванне літоўскай манархіі, зямельнай уласнасці, зараджэнне саслоўнага падзелу грамадства. У інш. сваіх працах ён аддаў шмат увагі раскрыццю сац. і паліт. падстаў Крэўскай уніі 1385, наступнай гаспадарчай і сац. эвалюцыі ВКЛ да Люблінскай уніі 1569 (Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983). У 1953 у Лондане на правах рукапісу быў выдадзены зборнік лекцый, прачытаных гал.ч. шэрагам польскіх эмігрантаў для Акадэмічнай суполкі Ун-та Стафана Баторыя ў замежжы «Гісторыя зямель Вялікага княства Літоўскага» (Dzieje ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego: Cykł wykładów. Londyn, 1953). Яго тэматыка досыць разнастайная, хоць і не вельмі шырокая: большасць матэрыялаў прысвечана гіст.-паліт. праблемам, у т.л. дзярж. уніям, культуры, этнічным, канфесіянальным, моўным і прававым адносінам на землях ВКЛ. Гал. ідэя зборніка – асвятленне гіст. умоў, у якіх выспявалі плённыя паліт., грамадскія і цывілізацыйныя сувязі літоўцаў, беларусаў і палякаў. Не без пэўнай ідэалізацыі адзін з аўтараў пісаў: «Мы павінны сцвердзіць з націскам, што вядучыя этнічныя групы ВКЛ і Кароны, зліваючыся ў адзін вышэйшы духоўны пласт, свабодны былі ад атруты ўзаемнай варожасці. У іншым выпадку ніколі б не нарадзілася і не ўмацавалася паміж імі пачуццё брацкай сувязі». Рэдкія працы заходнееўрапейскіх і амерыканскіх даследчыкаў закранaлі пераважна знешнепаліт., культ., царкоўную гісторыю (О.Бакус, Х.Станг, Х.Ябланоўскі і інш.).

У 1950–80-я г. сур'ёзныя навук. даследаванні былі напісаны літоўскімі гісторыкамі Р.Батурам, Б.Дундулісам, І.Лукшайтэ, Ё.Стакаўскасам, Ю.Юргінісам, М.Ючасам, К.Яблонскісам і інш. Аднак абагульняльныя літоўскія працы [История Литовской ССР: (с древнейших времен до наших дней). Вильнюс, 1978, і інш.] захоўвалі многія старыя падыходы сав. гістарыяграфіі. Толькі ў апошнія гады ў Літве выдадзена некалькі новых сінтэтычных прац, напісаных асн. спецыялістамі па гісторыі ВКЛ – Э.Гудавічусам, З.Кяўпам і інш. (Gudavičius E. Lietuvos istorija T. 1. Nuo seniausių laikų iki 1569 metų. Vilnius, 1999; Kiaupa Z., Kiaupienė J., Kuncevičius A. Lietuvos istorija iki 1795 metų. Vilnius, 1995). Паліт. парадыгмы гэтых прац захоўваюць значную пераемнасць з даследаваннямі літоўскіх гісторыкаў 1920–30-х г.



Такім чынам, большасць навук. прац, якія закраналі гісторыю Беларусі, ці ў больш шырокім кантэксце – гісторыю ВКЛ, была створана замежнымі даследчыкамі ў рэчышчы сваіх падыходаў, сваёй дзярж.-паліт. (расійскай, польскай, літоўскай) гісторыі. Заслугай некат. гэтых прац была пастаноўка, а часткова і распрацоўка шэрагу важных праблем гісторыі Беларусі, ВКЛ у межах значнай гіст. эпохі, выкарыстанне новых навук. канцэптуальна-метадалагічных прынцыпаў, больш дасканалай методыкі гіст. даследаванняў, назапашванне фактаграфічнага матэрыялу, увядзенне ў навук. ўжытак новых крыніц і аргументаў. Абмежаванасць многіх замежных прац 19–пач. 20 ст. была звязана пераважна з іх паліт. высновамі, паліт. і ў значнай ступені культ., царк. этнацэнтрызмам, ідэямі ўмацавання расійскай або аднаўлення ў новых гіст. умовах польскай або літоўскай дзяржаўнасці, што пакідала мала месца для асвятлення самастойнай ці хоць бы своеасаблівай гісторыі Беларусі. Палітызацыя гэтых прац мела сваю спецыфіку: пануючыя канцэпцыі афіцыёзнай рас. гістарыяграфіі прыкметна адрозніваліся ад гіст.-паліт. поглядаў бел., укр., польскіх, літоўскіх гісторыкаў, якія бачылі ў сваёй гіст. мінуўшчыне падставы для будучай незалежнасці. Большасць сав. гісторыкаў, у т.л. беларускіх, абгрунтоўвалі вядучую ролю сярэдневяковай Расіі ў гісторыі Усх. Еўропы. Не адмаўляючы значных уплываў этнічных, культ., царк. традыцый усх.-славянскіх народаў у развіцці цэнтрабежных тэндэнцый, яны асн. ўвагу звярталі на сац.-класавыя супярэчнасці і нац.-вызваленчы рух беларусаў і ўкраінцаў у ВКЛ, Рэчы Паспалітай, нярэдка перабольшвалі ў негатыўнай ацэнцы паліт. і канфесіянальных сувязей ВКЛ з Польшчай і Захадам.

**Палітычная гісторыя ВКЛ 13–16 ст.** У 2-й пал. 19–пач. 20 ст. вызначыліся асн. тэмы паліт. гісторыі ВКЛ, якія і цяпер прыцягваюць увагу даследчыкаў, з'яўляюцца аб'ектам дыскусій. Акрамя М.С.Грушэўскага, І.І.Лапы, М.К.Любаўскага, У.Ц.Пашуты, У.І.Пічэты, А.Я.Праснякова, Б.М.Флоры, Г.Л.Харашкевіч шмат увагі аддавалі міжнар. адносінам аўтары абагульняльнай працы «Польшча і Літва ў гістарычных адносінах» (Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Kraków, 1914), О.Галецкі (Halecki O. Dzieje unii jagiellońskiej. T. 1–2. Kraków, 1919–20), Л.Калянкоўскі (Kolankowski L. Dzieje Wielkiego Księstwa Litewskiego za Jagiellonów. T. 1. Warszawa, 1930; Яго ж. Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne. Lwów, 1936), Г.Пашкевіч (Paszkiewicz H. Jagellonowie a Moskwa. T. 1. Warszawa, 1933), А.Шапака (Lietuvos istorija. Kaunas, 1936; Šapoka A. Lietuva ir Lenkija po 1569 m. unijos. Kaunas, 1938), Х.Ябланоўскі (Jabłonowski H. Westrussland zwischen Wilna und Moscau. Leiden, 1955), С.М.Кучынскі (Kuczyński S.Ć. Studia z dziejów Europy Wschodniej X–XVII w. Warszawa, 1965), К.Яблонскіс (Jablonskis K. Lietuvos valstybės ir teisės istorija XIV a. iki XVI a. vidurio. Vilnius, 1971), З.Івінскіс (Ivinskis Z. Lietuvos istorija iki Vytauto Didžiojo mirties. Roma, 1978), М.Косман (Kosman M. Historia Białorusi. Wrocław etc., 1979), Е.Ахманскі (Ochmański J. Dawna Litwa. Olsztyn, 1986; Яго ж. Historia Litwy. 3 wyd. Wrocław etc., 1990), С.Ровел (Rowell S.C. Lithuania ascending: a pagan empire within East-Centrel Europe, 1215–1345. Cambridge etc., 1994), Г.Віснер (Wisner H. Litwa: Dzieje państwa i narodu. Warszawa, 1999), Ю.Бардах (Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII wieku. Białystok; Warszawa, 1970; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia ustroju i prawa polskiego. 5 wyd. Warszawa, 2000), Э.Гудавічус (Gudavičius E. Lietuvos istorija nuo seniausių laikų iki 1569 metų. Vilnius, 1999), Г.Лаўмянскі (Łowmiański H. Polityka Jagiellonów. Poznań, 1999), Т.Баранаўскас (Baranauskas T. Lietuvos valstybes ištakos. Vilnius, 2000). Гэта тэмы зараджэння, фарміравання, развіцця ВКЛ у кантэксце этнасац. і этнапаліт. гісторыі асобных народаў (беларусаў, літоўцаў, украінцаў, рускіх), знешняя палітыка вял. князёў літоўскіх, фактаграфічная і тыпалагічная характарыстыка дзярж. ладу і адм.-тэр. падзелу ВКЛ з вызначэннем іх своеасаблівасцей, характар і мэты ўнутр. палітыкі, у т.л. ўплыў на яе эвалюцыю паліт. традыцый («старыны») ВКЛ, уздзеянне царкоўна-канфесіянальных і знешнепаліт. фактараў (паліт. сувязі, войны, дзярж. і царкоўныя уніі) і інш. Адзін з карэнных недахопаў значнай часткі польскай гістарыяграфіі 19–першых дзесяцігоддзяў 20 ст. ў тым, што яна не бачыла ці не брала ў разлік ВКЛ як самастойны суб'ект знешняй і ўнутранай палітыкі, разглядала яго як буйную і перыферыйную правінцыю Польшчы. Толькі ў 1920–30-я г. ва ўмовах пэўнай стабілізацыі паліт. рэжымаў у Літве і Польшчы сталі фарміравацца новыя падыходы да паліт. гісторыі Цэнтр. і Усх. Еўропы. Менавіта ў гэты перыяд (нярэдка на розных паліт. і ідэалагічных асновах) створаны значныя навук. працы па паліт. гісторыі ВКЛ, пераважна яе першых этапаў. Некалькі грунтоўных прац Лаўмянскага



не толькі паклалі канец гэтаму застою ў вывучэнні гісторыі ВКЛ, яны незвычайна высока ўзнялі планку гіст. даследаванняў як у сферы метадалогіі, так і методыкі. Але падобных сінтэтычных прац па пазнейшай гісторыі ВКЛ у 15–16 ст. створана не было. Гэты недахоп часткова запаўняецца даследаваннямі па гісторыі праўлення асобных прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў і пазнейшых манархаў (Prochaska A. Dzieje Witolda w. księcia Litwy. Wilno, 1914; Pfitzner J. Grosfürst Witold von Litauen als Staatsmann. Brunn etc., 1930; Vytautas Didysis. Kaunas, 1930; Matusas J. Švitrigaila Lietuvos didysis kunigaikštis. Kaunas, 1938; Барвінський Б. Жигимонт Кейстутович, великий князь литовсько-руський (1432–1440). Жовква, 1905; Paszkiewicz H. Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa, 1925; Biskup M., Górski K. Kazimierz Jagiellończyk. Warszawa, 1987; Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellończyka. Poznań, 1995; Wojciechowski Z. Zygmunt Stary (1506–1548). Warszawa, 1946; Kolankowski L. Zygmunt August wielki książe Litwy do roku 1548. Lwów, 1913; Sucheni-Grabowska A. Monarchia dwu ostatnich Jagiellonów a ruch egzekucyjny. Wrocław etc., 1974).

Да высвятлення паліт. гісторыі Беларусі ў кантэксце гісторыі ВКЛ у апошнія гады актыўна прыступілі бел. гісторыкі. Адной з цэнтр. тэм навук. дыскусіі стала праблема ўзнікнення і фарміравання ВКЛ. Першым, хто ў 1980–90-я г. надрукаваў некалькі кніг са сваёй трактоўкай узнікнення і развіцця ВКЛ як бел. дзяржавы 13–15 ст., быў М.І.Ермаловіч. Пастаноўка пытання была слушная, і шмат якія аспекты яго прац заслугоўваюць увагі. Але ў вырашэнні спрэчных праблем яго канцэпцыя мае гіпатэтычны характар і патрабуе пашырэння крыніцазнаўчай і гістарыяграфічнай базы. У яго працах практычна адсутнічае цэласны крытычны агляд польскіх і літоўскіх даследаванняў, у т.л. прац Лаўмянскага. Да праблемы фарміравання ВКЛ звярнуліся таксама В.Л.Насевіч (Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993) і А.К.Краўцэвіч (Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 1998). Паводле Краўцэвіча, ВКЛ з самага пачатку складалася на аснове літувіска-бел. (літоўска-славянскай) супольнасці пры пераважнай паліт. ролі Беларусі, бо Літва не мела яшчэ сваёй дзяржаўнасці. Улічваючы пазнейшую сац.-паліт. і сац.-эканам. гісторыю Беларусі і Літвы, у т.л. Гарадзельскую унію 1413, гэта канцэпцыя патрабуе дадатковага абгрунтавання. Не новая, але больш рэалістычная выснова выкладзена ў працы Насевіча: на ранніх стадыях фарміравання ВКЛ пэўны паліт. прыярытэт мела літоўская знаць, у той час як «рускія» (беларускія і ўкраінскія) землі адыгрывалі прыярытэтную ролю ў культ. і сац. развіцці поліэтнічнай дзяржавы.

Сярод сучасных літоўскіх і інш. замежных гісторыкаў па агульных пытаннях фарміравання ВКЛ і наступнай яго гісторыі (па меншай меры да Люблінскай уніі 1569) пануе адносна кансалідаваны і традыцыйны пункт гледжання: гэта была літоўская дзяржава, якая прайшла некалькі стадый дзярж. станаўлення і паступова падначаліла сабе землі Беларусі, Украіны і некат. княствы паўн.-ўсх. Русі. Разыходжанні тычацца храналогіі ўзнікнення ВКЛ (канец 12 ст., пачатак, 30–40-я г. ці сярэдзіна 13 ст.), сац. асноў першых і наступных форм літоўскай дзяржаўнасці. Паводле Лаўмянскага, у 1-й чвэрці 13 ст. існавала пэўнае паліт. і іерархічнае згуртаванне літоўскіх князёў ваенна-мілітарнага, дружыннага тыпу. На думку яго гал. апанента Пашкевіча, улада і ўплыў літоўскіх кунігасаў ужо на гэтым этапе ў значнай ступені залежалі ад развіцця зямельнай уласнасці.

Супярэчліва ў гістарыяграфіі асвятляецца дзярж. лад ВКЛ. У большасці кампетэнтных на свой час прац падаецца, што да смерці Вітаўта (1430) панавала абсалютная манархія, пазней, асабліва пасля пагаднення 1492 аб падзеле ўлады паміж вял. князем літоўскім Аляксандрам і Радай ВКЛ, стала зацвярджацца саслоўна-прадстаўнічая манархія. Не ўлічваецца пры гэтым значная дэцэнтралізацыя ВКЛ і ўплыў старажытнай паліт. спадчыны, што яскрава адбілася ў адм.-тэр. падзеле, выразныя дэмаграфічныя і тэрытарыяльныя дыспрапорцыі паміж этнічнымі літоўскім землямі і «рускім» арэалам ВКЛ. У сучасных даследаваннях бел., рас., укр. гісторыкаў звернута ўвага на гэтыя гіст. рэаліі, якія рабілі немагчымым рэалізацыю абсалютысцкай формы праўлення ў яе тыповым еўрапейскім выглядзе. Паказальныя ў гэтым плане працы С.А.Падокшына і С.Ф.Сокала па гісторыі дзяржаўнасці і права Беларусі, С.В.Тарасава і Г.В.Штыхава па гісторыі Полацкага княства, Л.В.Аляксеева па гісторыі Смаленшчыны, Л.Вайтовіча па ўдзельных княствах Рурыкавічаў і Гедзімінавічаў, Кучынскага па гісторыі Северскай зямлі (Падокшын С.А., Сокал С.Ф. Дзяржаўнасць і права Беларусі са старажытных часоў да канца



XVI стагоддзя. Мн., 2000; Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX–XIII вв.). Мн., 1978; Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1992; Тарасаў С.В. Полацк IX–XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія. Мн., 1998; Войтович Л. Удільні князівства Рюриковичів і Гедиміновичів у XII–XVI ст. Львів, 1996; Kuczyński M.S. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy XIV–XVI w. Warszawa, 1936). Органы дзярж. улады і кіравання, а таксама саслоўныя інстытуты, сістэму права і судаводства на падставе параўнальнага аналізу трох Статутаў ВКЛ даследаваў С.Вансявічус (Vansevičius S. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės valstybiniai-teisiniai institutai. Vilnius, 1982). Станаўленне і дзейнасць мясц. форм шляхецкага самакіравання ў апошнія дзесяцігоддзі 16 ст. прасочваецца ў працах польскага даследчыка А.Б.Закшэўскага (Zakrzewski A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI–XVIII w. Ustrój i funkcjowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000). Тыпалагічнае параўнанне дзярж. ладу ВКЛ і Вял. княства Маскоўскага ажыццявіла М.Я.Бычкова (Бычкова М.Е. Русское государство и Великое княжество Литовское с конца XV в. до 1569 г.: Опыт сравнительно-исторического изучения политического строя. М., 1996). Шэраг унутрыпаліт., дзярж., сац., міжнар. і ваенных праблем гісторыі ВКЛ закранаецца ў зборніку літоўскіх і замежных аўтараў «Літоўская дзяржава XII–XVIII ст.» (Lietuvos valstybė XII–XVIII a. Vilnius, 1997). Навук.-папулярны і абагульняльны характар маюць працы па гісторыі дзяржаўнасці Беларусі ад старажытнасці да нашых часоў, падрыхтаваныя бел. згуртаваннем «Бацькаўшчына» і гродзенскімі даследчыкамі (Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы. Мн., 2001; Сільчанка М., Басюк І. Беларуская дзяржаўнасць. Гродна, 1997).

Агульным прабелам айчыннай і замежнай гістарыяграфіі можна лічыць недастатковую распрацаванасць т.зв. «рускай» праграмы вял. князёў літоўскіх, асабліва праблемы ўнутраных паліт. стымулаў і ўдзелу ўласна «рускіх» зямель ва ўмацаванні і абароне ВКЛ. Слаба даследуюцца змены ва ўнутрыпаліт. сітуацыі ў ВКЛ у канцы 15–сярэдзіне 16 ст., рост паліт. ўплыву бел.-укр. знаці і кансалідацыя ўсяго шляхецкага стану. Заслугоўваюць большай увагі працэсы пераўтварэнняў адм.-тэр. і судовай структуры ВКЛ, якія не выпадкова супадалі з этапамі паліт. збліжэння з Польшчай. Дагэтуль невядомы дакладаныя назвы і колькасць паветаў у Беларусі і Літве да Люблінскай уніі.

Гістарыяграфія знешняй палітыкі – самая занядбаная частка бел. гіст. навукі. Яе адставанне абумоўлена як метадалагічнымі цяжкасцямі, бо Беларусь (у сучасным сэнсе гэтага дзярж.-паліт. і грамадскага тэрміна) не праводзіла адасобленай знешняй палітыкі (калі не лічыць ВКЛ монаэтнічнай бел. дзяржавай), так і ідэалагічным уплывам. У сав. гістарыяграфіі 1930–80-х г. у якасці адзінага цэнтра «збірання» паліт. спадчыны старажытнай Русі звычайна разглядалася толькі Вял. княства Маскоўскае, што перашкаджала аб'ектыўнаму вывучэнню знешняй палітыкі ВКЛ і становішча ўсх.-слав. зямель у яго складзе. Асобныя працы сав. гісторыкаў, дзе выкладаўся іншы пункт гледжання (дарэчы, не вельмі новы, бо яшчэ ў 19–пач. 20 ст. некат. даследчыкі прызнавалі існаванне ў 13–15 ст. двух ці болей гіст. цэнтраў прыцягнення ўсх.-слав. зямель), былі рэдкай з'явай і на перыферыі тагачаснай сав. гістарыяграфічнай супольнасці яны практычна не сустракаліся (Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963). Рас. і ўкр., у меншай ступені інш. замежныя гісторыкі зрабілі важкі ўклад у вывучэнне ў знешняй палітыкі Галіцка-Валынскага княства (Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Яго ж. Внешняя политика Древней Руси. М., 1968; Галицько-Волинська держава: передумови виникнення, історія, культура, традиції. Львів, 1993; Майоров А.В. Галицко-Волынская Русь. СПб., 2001), Маскоўскай Русі (Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: вторая половина XV века. М., 1952; Черепнин Л.В. Образование Русского централизованного государства в XIV–XV веках: Очерки соц.-экон. и полит. истории Руси. М., 1960; Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963; Горский А.А. Русские земли в XIII–XIV вв. М., 1996; Борисов Н.С. Политика московских князей конца XIII–первой половины XIV в. М., 1999), Расіі [Королюк В.Д. Ливонская война. М., 1954; Зимин А.А. Россия на пороге нового времени: (Очерки полит. истории России первой трети XVI в.). М., 1972; Яго ж. Россия на рубеже XV–XVI столетий: (Очерки соц.-.полит. истории). М., 1982; Россия на путях централизации. М., 1982; Хорошкевич А.Л. Русское государство в системе международных отношений конца XV–начала XVI в. М., 1980; Итоги и задачи изучения внешней политики России: Советская историография. М., 1981], у т.л. ў дачыненні да зямель Беларусі і Літвы, прыгранічных



рус. княстваў (Цвярскога, Разанскага, северскіх і інш.). Гэтыя праблемы вывучалі гісторыкі 19–сярэдзіны 20 ст. (К.В.Базілевіч, Грушэўскі, Калянкоўскі, У.Д.Каралюк, Лаўмянскі, М.К.Любаўскі, І.Лялевель, А.Я.Праснякоў,), даследуюць новыя пакаленні рас., польск, літ., укр., ням. даследчыкаў (Д.Н.Аляксандраў, Э.Банёніс, І.Б.Грэкаў, А.А.Зімін, Э.Клюге, Флора, Харашкевіч, С.О.Шміт і інш.). З бел. гісторыкаў закранaлі гэтую тэму Л.С.Абэцэдарскі, А.М.Янушкевіч і Г.М.Сагановіч. Інфлянцкай вайне 1558–82 прысвечаны манаграфіі В.Навадворскага, С.У.Бахрушына, Каралюка, сучасных нямецкіх і скандынаўскіх даследчыкаў Н.Ангермана, Е.Цібурга і інш.

Пэўным паглыбленнем тэматыкі вызначаюцца працы па гісторыі адносін ВКЛ з Нямецкім ордэнам і Свяшчэннай Рымскай імперыяй. Паралельна з традыцыйнай гістарыяграфіяй, якая даследавала ваенна-паліт. экспансію рыцарскіх ордэнаў на землі Літвы і Беларусі, больш сістэмна вывучаюцца станаўленне і палітыка гэтых дзярж.-царк. арг-цый у Прыбалтыцы (іх гаспадарку, кіраванне, збор фінансавых сродкаў, сувязі з Захадам і інш.). Нападам крыжакоў на землі Літвы і Беларусі прысвечана манаграфія Гудавічуса (Gudavičius E. Kryžiaus karai Pabaltijyje ir Lietuva XIII amžiuje. Vilnius, 1989), а ў больш шырокім еўрапейскім кантэксце з улікам Польшчы – праца В.Паравічыні (Paravicini W. Die Preussenreisen des Europäischen Adels. T. 1–2. Sigmaringen, 1989–95). Ваенна-паліт. гісторыю замкаў, збудаваных у Беларусі на паўн.-зах. напрамку, сцісла апісаў М.А.Ткачоў (Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978). Асн. змены ў геапаліт. становішчы Беларусі ахарактарызаваны ў артыкулах А.П.Грыцкевіча і інш. аўтараў.

Працы гісторыкаў 19–20 ст., прысвечаныя адносінам ВКЛ з Польшчай, вылучаюцца фактаграфічнай насычанасцю і ўстойлівасцю гал. паліт. высноў (Бардах, Віснер, Галецкі, Лаўмянскі, Ф.Папэ, Г.Пашкевіч і інш.). Каштоўную навейшую працу па ўсім тэматычна-храналагічным дыяпазоне польска-літоўскіх кантактаў (са значным абмежаваннем матэрыялаў па гісторыі Беларусі) падрыхтаваў Г.Блашчык (Błaszczyk G. Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do wspułczesności. T. 1. Poznań, 1998).

Істотна разышліся польск., літ. і бел. гісторыкі ў ацэнцы дзярж. уній ВКЛ з Польшчай. У шэрагу прац польскіх гісторыкаў 19–20 ст. ідэалізавалася паліт. роля Польшчы ў паступовым збліжэнні з Літвой, не даследавалася належным чынам сац.-эканам. аснова экспансіі, на што адным з першых звярнуў увагу Лаўмянскі. На думку большасці літ. гісторыкаў, Крэўская унія 1385 не была актам рэальнага аб'яднання дзвюх дзяржаў, або адлюстроўвала дынастычную палітыку Ягелонаў; пытанне аб ролі ўдзельных князёў і баярства ў яе заключэнні застаецца нявысветленым. У адрозненне ад літ. даследчыкаў, якія звычайна прымяншалі інтэгравальнае значэнне Крэўскай і Люблінскай уній, польскія гісторыкі падкрэслівалі паўнапраўны саюз дзвюх дзяржаў і яго пазітыўныя паліт., а часткова і канфесіянальныя вынікі (Halecki O. Dzieje unii jagiellońskiej. T. 1–2. Kraków, 1919–20; Paszkiewicz H. O genezie i wartości Krewa. Warszawa, 1938; Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII wieku. Białystok; Warszawa, 1970; Wisner H. Unia: Sceny z przeszłości Polski i Litwy. Warszawa, 1988; Unia Lubelska i tradycje integracyjne w Europie Środkowo-Wschodniej. Lublin, 1999). У бел. гістарыяграфіі негатыўныя вынікі уній, як правіла, звязваюцца з польскай феадальнай і каталіцкай экспансіяй, у пэўнай ступені, з унутранай палітыкай кіруючых колаў ВКЛ і вял. князёў літоўскіх (Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961; Юхо Я.А. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі. Мн., 1992).

Недастаткова вывучаны адносіны з Крымскім ханствам і Турцыяй. Даследчыкі адзначаюць слабую каардынацыю сумесных дзеянняў Польшчы і ВКЛ супраць паўд. суседзяў (Koneczny F. Sprawy z Mengli Girejem. Wilno, 1927; Kołankowski L. Problem Kryma w dziejach jagiellońskich // Kwartalnik historyczny. 1935. Z. 3; Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV–XVI вв. М., 1963; Яго ж. Восточная Европа и упадок Золотой Орды. М., 1975; Черепнин Л.В. Образование Русского централизованного государства в XIV–XV веках: Очерки соц.-экон. и полит. истории Руси. М., 1960; Batūra R. Lietuva tautų kovoje prieš Aukso ordą. Vilnius, 1977; Tyszkiewicz J. Tatarzy na Litwie i w Polsce. Warszawa, 1989; Думин С.В. Татарские князья в Великом княжестве Литовском // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1991. T. 20; Горский А.А. Москва и Орда. М., 2000; Хорошкевич А.Л. Русь и Крым: От союза к противостоянию. Конец XV–начало XVI вв. М., 2001). За парогам манаграфічных навук. даследаванняў засталіся паліт. сувязі ВКЛ 14–15 ст. з Наўгародскай і Пскоўскай рэспублікамі.



**Сацыяльна-эканамічная гісторыя ВКЛ 17–18 ст.** Навук. вывучэнне гісторыі сялянства ВКЛ, абшчыны, аграрнай рэформы 16 ст., зямельнай уласнасці пачалося гал.ч. з 1860-х г. пад уплывам адмены прыгонніцтва ў Расіі, іншых паліт. і сац.-эканам. зрухаў (Леонтович Ф.И. Крестьяне Юго-Западной России по литовскому праву XV и XVI столетий // Университетские известия. Киев, 1863. № 1; Яго ж. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1–3. СПб., 1897–98; Владимирский-Буданов М.Ф. Крестьянское землевладение в Западной России до половины XVI в. // Чтения в Историческом обществе Нестора-Летописца. Киев, 1892. Кн. 7; Довнар-Запольский М. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. Ч. 1–2. М., 1917). На распрацоўку шэрагу важных сац.-эканам. праблем гісторыі ВКЛ пазітыўна паўплывалі ідэалаг. прыярытэты сав. гістарыяграфіі. У пасляваенны час выйшлі абагульняльныя працы ўкр. даследчыка Дз.Л.Пахілевіча, літоўскага – Ю.Юргініса, маскоўскага медыявіста Г.Л.Харашкевіч (Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957; Jurginis J. Baudžiavos isigalėjimas Lietuvoje. Vilnius, 1962; Яго ж. Lietuvos valstiečių istorija. Vilnius, 1978). Кампетэнтнае і працаёмкае даследаванне з высвятленнем сутнасці, эвалюцыі, гасп. дзейнасці сялянства і храналагічных межаў працэсу яго запрыгоньвання зроблена М.Ф.Спірыдонавым [Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV–XVI вв.). Мн., 1993]. Падмуркам яго працы сталі матэрыялы Метрыкі ВКЛ і мясц. судоў, што дазволіла ажыццявіць паўнацэннае параўнанне юрыд. норм з рэальнай сац. практыкай, паказаць паступовую інтэграцыю розных пластоў сялянства ў адзінае паднявольнае саслоўе. Асобным катэгорыям сялян прысвечаны працы бел. даследчыкаў В.Ф.Голубева і П.А.Лойкі, літоўскіх – А.Дубоніса, Ю.Кяўпене, Р.Марчэнаса, павіннасцям прыватных сялян – пазнанскага гісторыка Я.Юркевіча (Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI–XVIII ст. Мн., 1991; Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI–XVIII стст. Мн., 1992; Jurkiewicz J. Powinności włościan w dobrach prywatnych w Wielkim Księstwe Litewskim w XVI–XVII wieku. Poznań, 1991). Аграрную рэформу 16 ст. (валочную памеру) даследавалі Е.Ахманскі, М.В.Доўнар-Запольскі, В.Концэ, У.І.Пічэта і інш. (Conze W. Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weissrussland. T. 1. Leipzig, 1940; Ochmański J. La grande réforme agraire en Lituanie et en Ruthenie Blanche au XVI-e siecle // Kwartalnik historii kultury materialnej. Fascicule supplementaire. Ergon. 1960. Vol. 2).

Змястоўныя працы па гісторыі дзярж. і прыватных гарадоў Беларусі і часткова ВКЛ 16–18 ст. напісаны З.Ю.Капыскім, А.П.Грыцкевічам [Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI–первой половине XVII в. Мн., 1966; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI–первой половине XVII в. Мн., 1975; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1975; Яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI–XVIII вв.). Мн., 1979]. У іх працах ахоплены амаль усе бакі сац.-эканам., грамадска-паліт. жыцця гараджан, развіццё рамеснай, гандлёвай, карпаратыўна-цэхавай дзейнасці, ператварэнне буйных гарадоў Беларусі ў значныя культурныя цэнтры. Разам з тым ахарактарызаваны прычыны, па якіх гар. насельніцтва Беларусі не адыграла значнай паліт. ролі ў дзяржаве, не было прадстаўлена на шляхецкіх соймах. Гісторыяй гарадоў і асабліва мястэчак ВКЛ плённа займаецца тарунскі гісторык С.Александровіч (Alexandrowicz S. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki. Białystok, 1961. T. 1; Яго ж. Gospodarcze, prawne i etniczne osobliwości sieci miejskiej ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI–XVII w. // Miasta i kultura ludowa. Kraków, 1996). Пэўную ўвагу сталі аддаваць гарадам і мястэчкам бел. археалагі [Левко О.Н. Витебск XIV–XVIII вв. Мн., 1984; Бохан Ю.М. Аб месцы мястэчка ў структуры гарадскіх пасяленняў XV–XVIII стст.: (па матэрыялах мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн, 1993. Ч. 1; Шаблюк В. Да пытання фарміравання мястэчак Беларускага Панямоння // Там жа. Мн., 1996. № 10; Мяцельскі А.А. Старадаўні Крычаў. Мн., 2003]. Своеасаблівыя формы самакіравання шэрагу гарадоў і мястэчак Беларусі і Літвы, замацаваныя ў 14–16 ст. магдэбургскімі прывілеямі, даследаваліся Ю.Бардахам, А.С.Грушэўскім, Грыцкевічам, В.Д.Дружчыцам, Капыскім, З.Кяўпам, Н.В.Місарэвіч, С.П.Стрэнкоўскім, Ф.В.Тараноўскім, М.Ф.Уладзімірскім-Буданавым, Яворскім (Владимирский-Буданов М.Ф. Немецкое право в Польше и Литве. СПб., 1868; Тара-

новский Ф.В. Обзор памятников магдебургского права западно-русских городов литовской эпохи. Варшава, 1897; Грушевский А.С. Города Великого княжества Литовского в XIV–XVI вв.: Их старина и борьба за старину. Киев, 1918; Jaworski J. Studia nad ustrojem miast na prawie niemieckim w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie jagiellońskiej // Wileński rocznik prawniczy. Wilno, 1931. T. 5; Дружчыц В. Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх мястах з Майдэборскім правам // Зап. аддзелу гуманітарных навук Бел. АН. Мн., 1928. Кн. 3; Bardach J. Miasta na prawie magdeburskim w Wielkim Księstwie Litewskim od schyłku XIV do połowy XVII stulecia // Kwartalnik historyczny. 1980. № 1; Стрэнкоўскі С.П. Вольнасці і прывілеі гарадоў заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1997; Яго ж. Дзейнасць органаў самакіравання гарадоў заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага // Пытанні гісторыі Беларусі. Мн., 1998; Магдэбургскае права на Беларусі. Мн., 1999; Місарэвіч Н.В. Магдэбургскае права на Беларусі. Гродна, 2003.).

Шмат нявырашаных пытанняў звязана з фарміраваннем і развіццём пануючых колаў ВКЛ, асабліва баярства, шляхты, духавенства. Значную цікавасць прадстаўляюць працы О.Галецкага, В.Камянецкага, Г.Лаўмянскага, Г.Пашкевіча, У.Ц.Пашуты, У.Сямковіча, сучасных літ. гісторыкаў Э.Гудавічуса, Р.Пятраўскаса, Юргініса, М.Ючаса, новая канцэпцыя А.Нікжантайціса аб двух этапах фарміравання сац. структуры Літвы ў 13–14 ст. Розную ацэнку працэсам станаўлення шляхты ў ВКЛ далі К.Авіжоніс і Лаўмянскі (Avižonis K. Die Entstehung und Entwicklung des litauischen Adels bis zur litauisch-polnischen Union 1385. Berlin, 1932; Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983). На думку Авіжоніса, шляхта Літвы стала фарміравацца задоўга да таго, як склаліся ўмовы для Крэўскай і Гарадзельскай уній. Лаўмянскі звярнуў увагу на юрыд. і сац.-гаспадарчыя крытэрыі працэсу, даказваў, што афармленне шляхецкага стану залежала ад пашырэння і замацавання правоў баярства на зямельную ўласнасць, росту прадукцыйнасці і гандлёвых сувязей гаспадаркі, заключэння дзярж. уній. Для баяр і шляхты валоданне зямлёй стала больш карысным, чым служба ў войску і выкананне традыцыйных рыцарскіх абавязкаў. Інтэграцыя бел. баярства ў шляхецкі стан ВКЛ у 15–16 ст.– тэма асобнага даследавання Пічэты з крытычнай ацэнкай поглядаў Ф.І.Леантовіча, М.К.Любаўскага і інш. (Пичета В.И. Литовско-польские унии и отношение к ним литовско-русской шляхты // Сборник статей, посвященных Василию Осиповичу Ключевскому его учениками, друзьями и почитателями... М., 1909).

Агульным пытанням гаспадарчага развіцця ВКЛ прысвечаны класічныя працы Доўнар-Запольскага, Лаўмянскага, Пічэты, сінтэтычны артыкул Ахманскага (Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Том 1. Киев, 1901; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961; Ochmański J. Gesselschaft und Wirtschaft Litauens vom Ausgang des 14. Jahrhunderts bis 1655 // Studia Historia Oeconomicae. Poznań, 1981. Vol. 15). Большасць бел. і замежных даследчыкаў адзначае значнае паскарэнне сац.-эканам. развіцця Беларусі і Літвы ў 16 ст., завяршэнне фарміравання саслоўна-класавай структуры сталага феад. грамадства, рост ролі вярхоўнай улады і ўсяго стану феадалаў у спробах эфектыўнага рэгулявання сац.-эканам. працэсаў (аграрная рэформа, маштабныя гаспадарскія рэвізіі, развіццё агульназемскага заканадаўства і інш.). Цікава, што ўсе гэтыя з'явыназіраліся пры значным ускладненні знешнепаліт. абставін, крытычных фінансавых патрэбах, доўгіх і цяжкіх войнах. Сукупнасць гэтых, здаецца, несумяшчальных фактараў яшчэ чакае сваіх даследчыкаў.

**Царкоўныя і этнаканфесіянальныя адносіны ў ВКЛ у 13–16 ст.** Ва ўсёй Усх. і Цэнтр. Еўропе ВКЛ вызначалася асабліва складанай царкоўна-канфесіянальнай сістэмай. Канфесіянальныя ўплывы і традыцыі асн. этнічных груп насельніцтва ВКЛ, а таксама знешнецаркоўныя, а ў пэўнай ступені і паліт. сувязі правасл. і каталіцкай іерархіі з канстанцінопальскай патрыярхіяй і рымскай курыяй, царкоўнымі і кіруючымі коламі суседніх дзяржаў (у першую чаргу Польшчы і Вял. княства Маскоўскага) надавалі шматлікім гіст. даследаванням гэтай сферы нац.-паліт. і царкоўна-амбіцыёзныя адценні. У дачыненні да гісторыі Беларусі такімі рысамі выразна пазначаны манаграфіі правасл. святароў І.А.Чыстовіча і Р.Я.Кіпрыяновіча і каталіцкага К.Прапалануса (Чистович И. Очерк истории западно-русской церкви. Ч. 1–2. СПб., 1882–84; Киприанович Г.Я. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1885; Propolanus K. Polskie apostolstwo na Litwie: Szkic historyczny, 1387–1912. Wilno, 1913). На фоне гэтых прымітыўна апалагетычных прац вылучаюцца веданнем тэмы, выкарыстаннем новых крыніц,



адносным аб'ектывізмам (пры відавочнай схільнасці да той ці іншай канфесіі) некат. публікацыі царкоўных і свецкіх аўтараў. Па гісторыі праваслаўя, часткова каталіцызму і уніі ў Зах. Русі захоўвае сваё першараднае значэнне абагульняльная шматтомная праца маскоўскага мітрапаліта Макарыя (Макарий. История Русской Церкви. Т. 1–12. М., 1866–83). Аўтарытэт духоўнай пасады і адукаванасць дазволілі яму не толькі сабраць і сістэматызаваць вял. гіст. матэрыялы, але і больш свабодна выказацца па шэрагу вострых на той час гістарыяграфічных праблем (напр., першым сярод правасл. іерархаў прызнаць верагоднасць зах.-рус. паслання да папы Сікста IV 1476). Пазней выйшла абагульняльная праца Я.Е.Галубінскага.

Значны ўклад у вывучэнне гісторыі правасл. і уніяцкай цэркваў ВКЛ зрабілі ўкр. даследчыкі канца 19–20 ст. (Лотоцький О. Соборні крилоси на Україні й Білій Руси в XV–XVI віках // Записки Наукового товариства ім. Шевченка. Львів, 1896. Т. 9; Яго ж. Автокефалія. Том 1: Засади автокефалії. Прага, 1935). Рэктарам Духоўнай акадэміі ў Львове Б.Гудзяком выпушчана сінтэтычная праца па гісторыі правасл. царквы ў ВКЛ (Гудзяк Б. Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородський патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000).

У Расіі гэту тэматыку вывучаюць Б.М.Флора і інш. [Флоря Б.Н. Брестские синоды и Брестская уния // Славяне и их соседи. Вып. 3. М., 1991; Яго ж. Отношения государства и церкви у восточных и западных славян: (эпоха средневековья). М., 1992]. Руская патрыярхія пачала выдаваць шматтомную «Праваслаўную энцыклапедыю» (аналагічнае выданне пач. 20 ст. ва ўмовах ваенных і рэвалюцыйных падзей не было закончана).

З польскіх даследаванняў па гісторыі правасл. царквы трэба адзначыць сінтэтычную працу К.Хадыніцкага (Chodynicki K. Kościół prawosławny a Przeczpospolita Polska: Zarys historyczny, 1370–1632. Warszawa, 1934), а таксама кампілятыўныя публікацыі М.Лапінскага (Łapiński A. Zygmunt Stary a Kościół prawosławny. Warszawa, 1937; Яго ж. Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім за часоў панавання Уладыслава Ягайлы. Нью Ёрк, 1978). Гісторыяй праваслаўя займаецца беластоцкі даследчык А.Міравовіч (Mironowicz A. Podlaskie ośrodki i organizacje prawosławne w XVII i XVII wieku. Białystok, 1991; Яго ж. Kościół prawosławny w dziejach dawnej Rzeczypospolitej. Białystok, 2001; Яго ж. Kościół prawosławny w państwie Piastów i Jagiellonów. Białystok, 2003; Яго ж. Bractwa cerkiewne w Rzeczypospolitej. Białystok, 2003). Традыцыйна польскія гісторыкі дэталёва распрацоўваюць гісторыю хрысціянізацыі Літвы. Пры розных паліт. ацэнках яны пагаджаюцца з тым, што гэта акцыя ўцягвала Літву ў еўрапейскую супольнасць, а ў дачыненні да зямель Русі ў ВКЛ вяла да росту канфесіянальнай і сац. напружанасці (Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa etc., 1914; Chrystianizacja Litwy. Kraków, 1987; Kosman M. Od chrztu do chrystianizacji: Polska-Ruś-Litwa. Warszawa, 1992). Польскія гісторыкі першымі акцэнтавалі ўвагу на талерантнай палітыцы польскіх каралёў і вял. князёў літоўскіх на землях Беларусі і Літвы, карпатліва даследавалі прававы статус правасл. і каталіцкай цэркваў. Недахоп абагульняльных прац у цэлым прасочваецца ў слабым даследаванні рэальных царкоўна-канфесіянальных адносін, якія нярэдка прыкметна разыходзіліся з дзярж. заканадаўствам. У Польшчы пачала выдавацца «Каталіцкая энцыклапедыя».

З усіх хрысціянскіх канфесій ВКЛ параўнальна лепш даследавана гісторыя каталіцкай царквы, перш за ўсё ў арэале Віленскага біскупства. Пасля прац Я.Курчэўскага (Kurczewski J. Kościół zamkowy, czyli katedra wileńska w jej dziejowym, liturgicznym, architektonicznym i ekonomicznym rozwoju. T. 1–3. Wilno, 1908–16; Яго ж. Biskupstwo Wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych. Wilno, 1912) новыя значныя работы ў гэтай сферы, заснаваныя на вял. комплексе дакументальных крыніц, напісаны пазнанскім даследчыкам Е.Ахманскім (Ochmański J. Powstane i rozwój latyfundium biskupstwa wileńskiego, 1387–1550: Ze studiów nad rozwojem wielkiej własności na Litwie i Białorusi w średniowieczu. Poznań, 1963; Яго ж. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972). У іх ахарактарызаваны сац.-эканам. дзейнасць, зямельныя ўладанні і ўстановы віленскага біскупства, картаграфічна і храналагічна акрэслены этапы тэрытарыяльнай экспансіі каталіцкай царквы на землях Беларусі і Літвы, тлумачыцца канфесіянальная палітыка вярхоўнай улады і літоўскай знаці. Жамойцкае біскупства даследуе Г.Блашчык, а Луцкае – Л.Крулік.

Павярхоўна вывучана гісторыя манаскіх ордэнаў ВКЛ. Выключэнне складае гісторыя ордэна езуітаў, якой прысвечаны некалькі прац С.Абірака, Т.Б.Бліновай, С.Заленскага,

Л.Пехніка. Для свайго часу небескарыснымі (пры ўсёй ідэалагічнай тэндэнцыйнасці) былі працы Я.Н.Мараша [Załęski S. Jezuici w Polsce. T. 1–5. Lwów; Kraków, 1900-06; Obirek S. Jezuici w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w latach 1564–1668. Kraków, 1996; Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Яе ж. Иезуиты в Беларуси: Роль иезуитов в организации образования и просвещения. Гродно, 2001; Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). Мн., 1971].

Пратэстантызм, які з'явіўся ў ВКЛ у сярэдзіне 16 ст., у сукупнасці яго напрамкаў даследаваўся гал.ч. у 20 ст. Пачатак яго вывучэнню паклалі Ю.А.Лукашэвіч, М.М.Любовіч і інш. Грамадска-паліт. і філасофскія погляды вядучых прадстаўнікоў рэфармацыйнага руху ў Беларусі 2-й пал. 16–пач. 17 ст. характарызуюцца ў працы С.А.Падокшына [Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы (вторая половина XVI–начало XVII в.). Мн., 1970], гіст., канфесіянальныя, сац., культуралагічныя аспекты асвятляюцца ў публікацыях Л.С.Івановай, Я.Н.Парэцкага, І.В.Саверчанкі і інш. бел. даследчыкаў. У Расіі рэфармацыю ВКЛ даследуе М.У.Дзмітрыеў (Дмитриев М.В. Православие и реформация: Реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI в. М., 1990). З польскіх даследчыкаў літ. і бел. праблематыкай рэфармацыйных рухаў займаецца гал.ч. М.Косман (Kosman M. Reformacja i Kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973); асобныя змястоўныя публікацыі сістэматычна публікуюцца ў прэстыжным навук. выданні «Рэфармацыя ў Польшчы» («Reformacja w Polsce»). У Літве фундаментальнае даследаванне па гісторыі рэфармацыі падрыхтавала І.Лукшайтэ (Lukšaitė I. Reformacija Lietuvos Didžiojoje Kunigaikžtystėje ir Mažojoje Lietuvoje: XVI a. trečias dešimtmetis – XVII a. pirmas dešimtmetis. Vilnius, 1999). Гал. архіўныя матэрыялы Віленскага кальвінісцкага сінода загінулі ў 1611, таму вывучэнне асн. рэфармацыйнага руху ў ВКЛ 16 ст. сустракаецца з вял. цяжкасцямі. Спрэчнымі праблемамі застаюцца пытанні аб перадумовах рэфармацыі ў 16 ст., яе сац. уплывах па-за межамі шляхецкага стану, секулярызацыя царкоўных уладанняў, канкрэтная гісторыя асобных бел. і літ. збораў.

Першыя спробы абагульняльнага, хоць і прадузятага асвятлення гісторыі царкоўнай уніі на землях Беларусі, Літвы, Украіны зроблены ў працах рас. гісторыкаў канца 18–19 ст. М.М.Бантыш-Каменскага і М.В.Каяловіча, пазнанскага гісторыка Э.Лікоўскага. Гісторыя уніі ў рэальнасці і ў гістарыяграфіі была заўсёды моцна сплецена з паліт. і царкоўнымі тэндэнцыямі, што адбілася ў большасці навук. і папулярных прац. У 1920–30-х г. гісторыяй уніі, у т.л. розных унійных планаў вярхоўнай улады ВКЛ з часоў Ягайлы і Вітаўта, амаль выключна займаліся польскія гісторыкі А.Прахаска, Я.Фіялэк і Хадыніцкі, пазней – Цэнтр базіліянскіх даследаванняў у Рыме. Шырокую сінтэтычную панараму па гісторыі уніі ад Ферара-Фларэнційскага сабора да Берасцейскага і яе лёсу адлюстраваў О.Галецкі, аўтар інш. капітальнай працы па гісторыі пратэстанцкай уніі 1570 у Рэчы Паспалітай [Halecki O. From Florence to Brest (1439–1596). Hamden, 1968; Яго ж. Zgoda sandomierska 1570 r.: Jej geneza i znaczenie w dziejach reformacyi polskiej za Zygmunta Augusta. Warszawa; Kraków, 1915]. Цікавасць да гісторыі уніяцтва вырасла ў 1990-х г. у сувязі з 400-гадовым юбілеем Берасцейскага сабора 1596 і адраджэннем уніяцкай царквы на Украіне, часткова і ў Беларусі. За апошні час выйшла нямала аўтарскіх публікацый, зборнікаў, матэрыялаў навук. канферэнцый, прысвечаных розным сферам канфесіянальнай, грамадска-паліт., асветніцкай дзейнасці уніятаў, непасрэдна Берасцейскай уніі. Новыя працы па гісторыі уніяцкай царквы ў Беларусі і на Украіне ўлічаны ў манаграфіях Гудзяка, С.В.Марозавай і інш. [Марозава С.В. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596–1839 гг.). Гродна, 1996; Яе ж. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады). Гродна, 2001; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура: Філасофска-гістарычны аналіз. Мн., 1998; З гісторыі уніяцтва ў Беларусі: (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996]. На супярэчлівыя высновы дыскусіі па гісторыі уніі ўплываюць канфесіянальныя і паліт. погляды іх удзельнікаў, традыцыі старой гістарыяграфіі. Важнымі дыскусійнымі праблемамі гэтай тэматыкі застаюцца перадумовы Берасцейскай уніі, уплыў паліт. і царкоўных тэндэнцый на дзейнасць уніяцкай царквы, адносіны каталіцкай іерархіі, кіруючых колаў Рэчы Паспалітай, розных пластоў насельніцтва да уніятаў.

Эвалюцыю хрысціянскіх цэркваў на адпаведным кантынентальным узроўні вывучаюць супрацоўнікі Інстытута Цэнтр.-Усх. Еўропы ў Любліне пад кіраўніцтвам Е.Клачоўскага, гістарыяграфічныя аспекты царкоўнай праблематыкі – бел. Цэнтр гіст. дасле-



даванняў, які ўзначальвае Дз.У.Караў (Chrześcijaństwo Rusi Kijowskiej, Białorusi, Ukrainy i Rosji (X–XVII wiek). Kraków, 1997; Chrześcijaństwo w Polsce: Zarys przemian, 966–1979. Lublin, 1992; Наш радавод. Кн. 4, ч. 1–3. Гродна, 1992.).

У апошнія дзесяцігоддзі пашырыліся даследаванні па гісторыі нехрысціянскіх канфесій ВКЛ, з'явіліся сур'ёзныя публікацыі па гісторыі татарскай абшчыны і мусульманства П.Бараўскага, С.У.Думіна, І.Б.Канапацкага, Я.Собчака, Я.Тышкевіча і інш. (Sobczak J. Położenie prawne ludności tatarskiej w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa, Poznań, 1984; Borawski P. Tatarzy w dawnej Rzeczypospolitej. Warszawa,1986;. Tyszkiewicz J. Tatarzy na Litwie i w Polsce: Studia z dziejów XIII–XVIII w. Warszawa, 1989; Думін С.У., Канапацкі І.Б. Беларускія татары: Мінулае і сучаснасць. Мн., 1993; Канапацкі І.Б., Смолік А.І. Гісторыя і культура беларускіх татар. Мн., 2000).

Сярод абагульняльных прац па гісторыі іудаізму і яўрэяў у ВКЛ акрамя ўстарэлых прац С.А.Бяршадскага пэўнай увагі заслугоўваюць даследаванні С.В.Барона і А.Цыгельмана (Бершадский С.А. Литовские евреи: История их юридического и общественного положения в Литве от Витовта до Люблинской унии, 1388–1569. СПб., 1883; Baron S.W. A social and religious history of the Jews. Vol. 16. Poland-Lithuania, 1500–1650. New York, London, 1976; Cygielman A. Jewish autonomy in Poland and Lithuania until 1648. Jerusalem, 1997). Прававыя аспекты становішча яўрэйскіх абшчын у Беларусі і Літве закранаюцца ў публікацыях бел. і літ. даследчыкаў.

**Культура ВКЛ у 13–16 ст.** Дасягненні бел. даследчыкаў ў вывучэнні матэрыяльнай і духоўнай культуры ВКЛ, перш за ўсё Беларусі 16 ст., відавочныя. Аднак раннія этапы гісторыі культуры ВКЛ, як і перыядызацыя культурна-гіст. працэсу да канца 15 ст. па комплексных крытэрыях, практычна не паддаюцца вывучэнню, гал.ч. з-за недахопу пісьмовых крыніц. Трэба адзначыць таксама позняе развіццё ў Беларусі археалогіі помнікаў 13–16 ст., якая ўжо дала багатыя матэрыялы (Археалогія Беларусі. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. Мн., 2001). У адзінай сінтэтычнай працы гісторыя культуры Беларусі 13–16 ст. асвятляецца ў яе сувязях з развіццём культурна-гіст. працэсаў у ВКЛ, асаблівасцямі фарміравання бел. народнасці і статусам бел. мовы (Лыч Л., Навіцкі У. Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996). Публікацыі па гісторыі культуры Беларусі – найбольш шматлікія з усіх гіст. даследаванняў сярэдневякоўя і пераходнага перыяду да эпохі Новага часу. Аднак розныя сферы духоўнай і матэрыяльнай культуры Беларусі вельмі дыферэнцыраваны па навук. ўзроўні даследавання. Прыкметныя поспехі дасягнуты ў вывучэнні старажытнай бел. мовы, літаратуры, пісьменнасці, мастацтва (пластыкі, іканапісу, графікі, слабей – прыкладнога мастацтва), традыцыйнай нар. культуры [Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Молчанова Л.А. Материальная культура белорусов. Мн., 1968; Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969; Яго ж. Народно-прикладное искусство Белоруссии: (от первобытного общества до 1917 г.). Мн., 1972; Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры: Узнікненне і літаратурная гісторыя першых зводаў. Мн., 1969; История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977; Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI–XVIII стст.). Мінск, 1977; Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984; Каханоўскі Г.А., Малаш Л.А., Цвірка К.А. Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989; Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў. Мн., 1992; Левшун Л.В. Очерки истории восточнославянской средневековой книжности: Эволюция творческих методов.Мн., 2001]. Добра даследавана гісторыя бел. народнай, царкоўнай, палацава-замкавай архітэктуры. Гэтыя працы пераважна наватарскія па сваёй сутнасці, бо абапіраюцца не столькі на папярэднія даследаванні, колькі на вывучэнне канкрэтных захаваных помнікаў. Агляд навук. літаратуры і архіўных матэрыялаў (пераважна інвентароў прыватных і дзярж. уладанняў) прадстаўлены ў каштоўным даведніку Ю.А.Якімовіча (Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI–середины XVII в.: Справочное пособие. Мн., 1991). Зруйнаваныя помнікі манументальнага дойлідства Беларусі па архіўных і літаратурных крыніцах, старых графічных матэрыялах даследаваны ў калектыўнай манаграфіі Т.В.Габрусь, А.М.Кулагіна, М.А.Ткачова (Страчаная спадчына. Мн., 1998). Замкі, палацавае і культавае дойлідства – аб'ект вывучэння М.М.Шчакаціхіна, Ткачова, А.А.Трусава, А.М.Кушнярэвіча, нар. дойлідства – Якімовіча, Л.А.Малчанавай і інш. (Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т.1. Мн., 1928; Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Бело-



руссии XI–XVII вв. Мн., 1988; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII–XVI стст.: Гістарычнае і архітэктурна-археалагічнае даследаванне. Мн., 1993). Мастацкі стыль барока ў дойлідстве канца 16–18 ст. даследуецца ў працах Габрусь (Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001). Неаднаразова выдаваўся багата ілюстраваны падручнік па гісторыі архітэктуры Беларусі, заснаваны на навуковай літаратуры і ўласных, у т.л. палявых, працах У.А.Чантурыі (Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. Дооктябрьский период. 3 изд. Мн., 1985). Назапашаныя матэрыялы і навук. працы далі магчымасць А.І.Лакотку вызначыць істотныя нац. рысы бел. архітэктуры (Лакотка А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999). Навук. публікацыі прысвечаны таксама інш. сферам культуры: кнігадрукаванню і кніжнай пісьменнасці, музычнаму мастацтву, тэатру, ткацтву, кераміцы і інш. (Костюковец Л.Ф. Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983; Милюченков С.А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984; Церашчатава В.В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI–XVIII стст. Мн., 1986; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1987; Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. Мн., 1993; Назіна І.Дз. Беларускія народныя музычныя інструменты. Мн., 1997).

Гісторыкі філасофіі шмат увагі аддавалі апісанню матэрыялістычных, гуманістычных, асветніцкіх тэндэнцый ў духоўнай культуры Беларусі. Гісторыкі права займаліся пераважна выдатнымі помнікамі нац.-дзярж., еўрапейскай і сусветнай прававой культуры – Статутамі ВКЛ 1529, 1566 і 1588 [Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Юхо И.А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли в Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1978; Сокол С.Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI–первой половины XVII в. Мн., 1984; Bardach J. O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990].

Недастаткова даследаваны ў навейшай бел. і замежнай гістарыяграфіі сістэмы царкоўнай і свецкай адукацыі, культурныя сувязі паміж народамі ВКЛ, а таксама з суседнімі краінамі, роля правасл. і каталіцкай цэркваў у культ.-гіст. працэсе, ментальнасць, гіст. і этнічная свядомасць беларусаў у цэлым і асобных іх пластоў і груп у прыватнасці (Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века, отношение их к инославным, религиозное обучение в них и заслуги их в деле защиты православной веры и церкви. Казань, 1898; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI–середине XVII в. Мн., 1989; Менталитет восточных славян: История, современность, перспективы. Гомель, 1999). Асн. навук. дыскусіі ў культуралагічнай сферы гуманітарна-гіст. даследаванняў сканцэнтраваны вакол праблем вызначэння цывілізацыйнай арыентацыі культуры Беларусі і Літвы 13–16 ст. у кантэксце дылемы «Усход-Захад» (без пэўнай дыферэнцыяцыі нар. і нетрадыцыйнай культуры даследчыкі нярэдка прыходзяць да супрацьлеглых высноў); характарыстыкі духоўнай культуры эпохі Адраджэння ў Беларусі і Літве; выяўлення этнічна своеасаблівых і тыпалагічных рыс у помніках культурнай спадчыны. У бел. гіст. культуралогіі асабліва адчувальны недахоп абагульняльных прац па культурна-гіст. працэсах 13–16 ст., нават найбольш бліскучы перыяд – эпоха Адраджэння – не мае ніводнай комплекснай цэласнай манаграфіі. Асобныя працы па гісторыі эстэтычнай, філасофскай ці гуманістычнай думкі ў Беларусі далёка не вычэрпваюць гэтай праблематыкі.

**Абагульняльныя працы па гісторыі ВКЛ 17–18 ст.** Да разгляду некаторых пытанняў паліт., сац.-эканам. і царкоўна-рэлігійнай гісторыі ВКЛ 17–18 ст. звярталіся ўжо тагачасныя гісторыкі Рэчы Паспалітай, а таксама мясцовыя даследчыкі 2-й пал. 18–19 ст. К.Барташэвіч, В.Калінка, І.Лялевель, А.Нарушэвіч, Т.Корзан і інш. Іх працы вызначаліся польскацэнтрычным падыходам, пры якім падкрэслівалася асветніцкая і цывілізатарская роля Польшчы ў эканам., дзярж.-прававым і культ. развіцці зямель, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай. Гісторыі ўласна бел. зямель у складзе ВКЛ аддавалася мала ўвагі. Важнае месца ў даследаванні мінулага Рэчы Паспалітай належыць прафесару Віленскага ун-та Лялевелю, які пры выкладанні гісторыі адводзіў асн. ролю гісторыі дзяржаў і сац. адносін. У 18 ст. гісторыя Рэчы Паспалітай пачала прыцягваць увагу і рас. гісторыкаў, адным з найбольш відных быў В.М.Тацішчаў. У супрацьвагу



польскім гісторыкам, якія абсалютызавалі цывілізатарскую ролю Польшчы на землях ВКЛ, рас. даследчыкі выступалі з велікадзяржаўных пазіцый, заснаваных на палажэннях тэорыі афіцыйнай народнасці, сфармуляванай у 19 ст., і на прызнанні «спрадвечных» правоў Расіі на бел. і ўкр. землі. Адным з найб. паслядоўных прапагандыстаў гэтага кірунку быў М.Г.Устралаў, які даваў надзвычай негатыўную ацэнку ўтварэнню Рэчы Паспалітай і ролі гэтай дзяржавы ў гісторыі Усх. Еўропы. Асобныя пытанні гісторыі бел. зямель, гал.ч. звязаныя з войнамі паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай, закраналі ў 19 ст. М.І.Кастамараў, В.В.Ключэўскі, С.М.Салаўёў. Больш увагі мінуламу ўласна Беларусі аддаваў В.В.Турчыновіч, які выдаў у 1857 працу «Агляд гісторыі Беларусі са старажытнейшых часоў». Ён прыйшоў да высновы, што на працягу сваёй гісторыі Беларусь была цесна звязана з інш. народамі, а яе тэрыторыя выступала толькі як арэна сутыкнення інтарэсаў больш магутных суседзяў, што прыводзіла да яе аслаблення. У рэчышчы супрацьстаяння «дзвюх галоўных сіл – рускай і польскай» разглядаў гісторыю Беларусі, Украіны і Літвы М.В.Каяловіч. Паралельна з велікадзяржаўніцкімі польскай і рас. гістарыяграфічнымі канцэпцыямі, якія адмаўлялі самастойнасць бел. этнасу і разглядалі землі Беларусі толькі як частку Польшчы або Расіі, адбывалася станаўленне ўласна бел. гістарыяграфічнай канцэпцыі. Пачатак гэтага працэсу звязаны з дзейнасцю ў 1810–20-я г. групы прафесараў славістыкі, гісторыі і права Віленскага ун-та – М.К.Баброўскага, І.Даніловіча, Т.Нарбута, Ю.Ярашэвіча, якія разглядалі гісторыю ВКЛ з пазіцый бел. і літ. народаў. Вял. ўвага да гісторыі і народнай культуры Беларусі і Літвы даследчыкаў П.В.Баброўскага, З.Я.Даленгі-Хадакоўскага, А.Г.Кіркора, Я.Чачота і інш. спрыяла росту ў сярэдзіне 19 ст. цікавасці да бел. народа, які разглядаўся тады пакуль яшчэ ў цеснай сувязі з літ. народам.

У канцы 19–пач. 20 ст. уяўленне аб беларусах як асобным этнасе са сваёй уласнай гісторыяй выйшла на якасна новы ўзровень. Выдатная роля ў наданні гістарыяграфіі Беларусі выразнай нац. афарбоўкі належыць М.В.Доўнар-Запольскаму, у сферу навук. інтарэсаў якога ўваходзіла гал.ч. вывучэнне ВКЛ. Значнай з'явай у станаўленні нац. гістарыяграфіі стала «Кароткая гісторыя Беларусі» В.Ю.Ластоўскага, якая публікавалася на старонках газ. «Наша ніва», а ў 1910 выйшла ў Вільні асобным выданнем. Новая хваля ўвагі да гісторыі Беларусі была звязана з абвяшчэннем БНР і ўтварэннем БССР. Сярод прац па гісторыі Беларусі абагульняльнага характару неабходна назваць «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» У.М.Ігнатоўскага, які ў 1920-я г. быў падручнікам па айчыннай гісторыі ў школах. Марксісцка-ленінская метадалогія, якая лягла ў аснову бел. гістарычнай навукі пасля Кастр. рэвалюцыі, абумовіла тое, што найбольшы прыярытэт у савецкія часы аддаваўся вывучэнню праблем сац.-эканам. гісторыі. Прычым перыяд 17–18 ст. цікавіў даследчыкаў значна менш, чым папярэднія. Пытанні паліт. гісторыі калі і закраналіся, то з мэтай падкрэсліць прыгнечанае становішча бел. народа ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай і спрадвечнае імкненне беларусаў да ўз'яднання з Расіяй. Падобная трактоўка знайшла адлюстраванне ў «Тэзісах аб асноўных пытаннях гісторыі БССР», выдадзеных у 1948, дзе перыяд знаходжання Беларусі пад уладай Літвы і Польшчы характарызаваўся адмоўна. Для бел. гістарыяграфіі гэтага часу характэрна спалучэнне марксісцкага падыходу пры разглядзе пытанняў сац.-эканам. развіцця з велікадзяржаўніцкай тэндэнцыяй дарэвалюцыйнай рас. гістарыяграфіі. Гэты падыход знайшоў адлюстраванне ў 1-м томе двухтомніка «Гісторыя Беларускай ССР» (1954, на рус. мове), перавыдадзеным у дапоўненым выглядзе ў 1961 (на рус. і бел. мовах), а таксама ў 1-м томе пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР» (1972). Адначасова класавы падыход да выбару тэматыкі гіст. даследаванняў абмяжоўваў вывучэнне гісторыі дзяржавы і права, шляхецкага саслоўя, рэлігіі і царквы. Пытанні сац.-эканам. развіцця былі прыярытэтнымі ў бел. гістарыяграфіі да канца 1980-х г. пры даследаванні гісторыі Беларусі 17–18 ст. У далейшым рэзка вырасла ўвага да праблем паліт. гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Павысілася цікавасць да пытанняў, звязаных з рэліг. і культ. развіццём бел. зямель, у т.л. і ў складзе Рэчы Паспалітай. Важным момантам, характэрным для бел. гістарыяграфіі апошняй чвэрці 20 ст., стаў рост увагі даследчыкаў да археалагічных крыніц, якія раней пры вывучэнні гісторыі Беларусі 15–18 ст. практычна не выкарыстоўваліся. Назапашванне і ўвядзенне ў навук. ўжытак вял. колькасці матэрыялу, правядзенне навук. даследаванняў па праблемах гісторыі ВКЛ, слаба вывучаных ці не вывучаных наогул, зрабіла магчымым стварэнне новых абагульняльных прац па гісторыі Беларусі, у якіх перыяд 17–18 ст. асветлены на ўзроўні сучасных дасягненняў гіст. навукі. Адным з



першых крокаў у гэтым кірунку стала выданне 1-й часткі «Нарысаў гісторыі Беларусі» (1994). Выйшаў у свет 3-і том шасцітомнай «Гісторыі Беларусі» [Гісторыя Беларусі. Т. 3. Беларусь у часы Рэчы Паспалітай (XVII–XVIII стст.). Мн., 2004]. Выйшаў цэлы шэраг абагульняльных прац і навучальных дапаможнікаў па айчыннай гісторыі (Гісторыя Беларусі. Ч. 1. Ад старажытных часоў – па люты 1917 г. / Пад рэд. Я.К.Новіка і Г.С.Марцуля. Мн., 1998; Гісторыя Беларусі. Ч. 1. Са старажытных часоў да канца XVIII ст. / Пад рэд. П.І.Брыгадзіна і інш. Мн., 2000; Дзмітрачкоў П.Ф., Маразевіч В.Л. Беларусь у другой палове XVII–XVIII стст. Магілёў, 2000; Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн., 2000; Сагановіч Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да да канца XVIII стагоддзя. Мн., 2001; Дзмітрачкоў П.Ф. Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага: Другая палова XIII–першая палова XVII стст. Магілёў, 2003; Трещенок Я.И. История Беларуси. Ч. 1. Досоветский период. Могилев, 2003; Чигринов П.Г. История Беларуси с древности до наших дней. Мн., 2004, і інш.).

У Літве ў пасляваенны перыяд абагульняльныя працы па гісторыі краіны («Гісторыя Літоўскай ССР») з'явіліся ў 1957 (т. 1), 1958, 1978 (на рус. мове), 1985 (т. 1). Выйшлі грунтоўныя працы па літ. гісторыі часоў ВКЛ А.Бутрымаса, Э.Гудавічуса, З.Кяўпы, Ю.Кяўпене, А.Кунцявічуса, польскага даследчыка Е.Ахманскага і інш. Вял. значэнне мае абагульняльнае даследаванне літ. вучоных «Культура Вялікага княства Літоўскга» (2001).

**Палітычная гісторыя ВКЛ 17–18 ст.** Праблемы паліт. гісторыі бел. земляў у 17–18 ст. да нядаўняга часу фактычна не былі прадметам спец. разгляду. Прадстаўнікі як рас., так і польскай гістарыяграфіі вывучалі яе ў межах паліт. гісторыі Рэчы Паспалітай і супрацьстаяння гэтай дзяржавы з суседнімі краінамі, найперш з Расіяй. Асабліва гэта тычыцца пытанняў унутрыпаліт. развіцця, што тлумачыцца стварэннем у выніку Люблінскай уніі 1569 агульнай паліт. прасторы на абшарах Рэчы Паспалітай і цесным паліт. збліжэннем шляхты ВКЛ і Кароны Польскай. Польскія даследчыкі Я.Тазбір, Я.Мацішэўскі, В.Крыгзайзен, Э.Апалінскі, У.Чаплінскі, Г.Альшэўскі і інш. пры аналізе паліт. развіцця Рэчы Паспалітай у асноўным акцэнтуюць увагу на польскіх землях [Tazbir J. Kultura szlachecka w Polsce: Rozkwit – upadek – relikty. Warszawa, 1979; Maciszewski J. Szlachta polska i jej państwo. Warszawa, 1986; Kriegseisen W. Sejmiki w XVII i XVIII wieku. Warszawa, 1991; Яго ж. Sejm Rzeczypospolitej szlacheckiej (do 1763 roku): Geneza i kryzys władzy ustawodawczej. Warszawa, 1995; Opaliński E. Kultura polityczna szlachty polskiej w latach 1587–1652: System parlamentarny w społeczeństwie obywatelskim. Warszawa, 1955; Czapliński W. Rola magnaterii i szlachty w pierwszych latach wojny szwedzkiej // Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655–1660. Warszawa, 1957. T.1; Olszewski H. Sejm Rzeczypospolitej epoki oligarhii: Prawo – praktyka – teoria – programy. Poznań, 1966; Яго ж. Ustrój polityczny Rzeczypospolitej // Polska XVII wieku: Państwo. Społeczeństwo. Kultura. Warszawa, 1969]. Да ўнутрыпаліт. становішча земляў ВКЛ звяртаюцца польскія даследчыкі Ю.Бардах, Г.Віснер, А.Б.Закшэўскі, Г.Люлевіч, А.Рахуба і інш. [Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVII wieku. Białystok; Warszawa, 1970; Яго ж. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 2002; Wisnier H. Sejmiki litewskie i kwestie wyznaniowe, 1611–1648 // Odrodzenie i reformacja w Polsce. Warszawa, 1978. R. 23; Яго ж. Naprawa państwa w uchwałach sejmików Wielkiego Księstwa Litewskiego w pierwszej połowie XVII w. // Studia polsko-litewsko-białoruskie. Warszawa, 1988; Яго ж. Unia: Sceny z przeszłości Polski i Litwy. Warszawa, 1988; Zakrzewski A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego (połowa XVI–koniec XVIII w.) // Parlamentaryzm w Polsce we współczesnej historiografii. Warszawa, 1995; Яго ж. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI–XVIII w. Ustrój i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000]. Дэталёва распрацаваны ў польскай гістарыяграфіі пытанні знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай у 17–18 ст., гісторыя войнаў і вайсковай арганізацыі.

Рас. гісторыкаў цікавілі найперш пытанні знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай, асабліва ўзаемадачыненні гэтай дзяржавы з Расіяй. Ім належыць значная колькасць прац, у якіх дэталёва разгледжаны падзеі «Смутнага часу», войны сярэдзіны 17 ст., Паўн. вайна 1700–21 і падзелы Рэчы Паспалітый [Костомаров Н. Последние годы Речи Посполитой. СПб., 1870; Соловьев С. История падения Польши. М., 1863; Любавский М.К. Русская история XVII и первой половины XVIII в. М., 1913; Кафенгауз Б.Б. Северная война и Ништадский мир (1700–1721). М.;Л., 1944; Королюк В.Д. Из истории польско-русских отношений в эпоху Петра Первого (1697–1704) // Известия АН СССР. Сер. ист. и филос.



1949. № 3; Яго ж. Русская дипломатия и подготовка вступления Речи Посполитой в Северную войну // Уч. зап. Института славяноведения АН СССР. М., 1953. Т. 7; Яго ж. Вступление Речи Посполитой в Северную войну // Уч. зап. Института славяноведения АН СССР. М., 1954. Т. 10; Яго ж. Polska i Rosja a Wojna Północna. Warszawa, 1954; Галактионов И.В. Из истории русско-польского сближения в 50–60-х годах XVII века: (Андрусовское перемирие 1667 года). Саратов, 1960; Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века. М., 1974; Артамонов В.А. Россия и Речь Посполитая после Полтавской победы (1709–1714). М., 1990; Заборовский Л.В. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655–1656 гг.): Документы, исследование. М., 1994; Стегний П.В. Разделы Польши и дипломатия Екатерины II. 1772. 1793. 1795. М., 2002.].

Айчынная гістарыяграфія разглядала Рэч Паспалітую як дзярж. ўтварэнне, якое не адпавядала інтарэсам бел. народа, таму ў ёй праблемы паліт. гісторыі бел. земляў у складзе Рэчы Паспалітай зводзіліся да разгортвання нац.-вызваленчай барацьбы і імкнення насельніцтва Беларусі да ўз'яднання з Расіяй. Такая тэндэнцыя прасочваецца ў працах Л.С.Абэцэдарскага, А.П.Ігнаценкі, шэрагу інш. аўтараў, якія не маглі цалкам абысці ўвагай паліт. развіццё Рэчы Паспалітай, прынамсі пры стварэнні абагульняльных прац [Акіншэвіч Л. Казацтва на Беларусі // Полымя. 1927. № 1; П'янкоў А.П. Паўстанне Дзяніса Мурашкі // Весці АН БССР. 1949. № 1; Игнатенко А.П. Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII–XVIII в.) Мн., 1974; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI–XVII в. Мн., 1978].

Зварот бел. даследчыкаў да пытанняў паліт. гісторыі бел. земляў у складзе Рэчы Паспалітай актывізаваўся ў 1980-я г. Увагу айчынных гісторыкаў прыцягнулі праблемы знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай, асабліва вайна з Расіяй 1654–67 г. і падзелы дзяржавы ў канцы 18 ст. Кніга Г.М.Сагановіча «Невядомая вайна, 1654–1667» (1995) – адзін з найб. яскравых прыкладаў у змяненні акцэнтаў пры разглядзе паліт. гісторыі Рэчы Паспалітай і ўвасаблення «канцэпцыі нац. гісторыі Беларусі». Абвяргаючы фундаментальны тэзіс рас. і савецкай гістарыяграфіі аб шматвяковым імкненні беларусаў да ўз'яднання з Расіяй і рэальным увасабленні гэтага імкнення ў падтрымцы царскіх войск у вайне 1654–67, аўтар на падставе вял. колькасці крыніц паказаў цяжкія ўмовы, у якіх апынулася насельніцтва Беларусі з пачаткам вайны. Даследчык паказаў катастрафічныя вынікі вайны для Беларусі і лічыць яе самай трагічнай старонкай бел. гісторыі. Сагановіч разглядае і пытанні знешняй палітыкі Рэчы Паспалітай 1-й пал. 17 ст. Падзеі 1654–67 асвятлялі таксама В.І.Мялешка і М.А.Ткачоў (Мялешка В.І. Войны сярэдзіны XVII ст. // Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Ч. 1.; Ткачоў М.А. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–67 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т. 2). Для Мялешкі характэрны больш стрыманы падыход у ацэнцы ўдзелу насельніцтва Беларусі ў вайне. Ён вылучае некалькі этапаў, на працягу якіх мянялася стаўленне беларусаў да рас. войск – ад прамаскоўскіх ілюзій і падтрымкі царскіх войск да паступовага расчаравання, расколу грамадства на прыхільнікаў і праціўнікаў рас. пратэктарату, да грамадзянскай вайны і, нарэшце, да ўсенароднага антымаскоўскага руху на бел. землях. Ткачоў як даследчык вайсковай гісторыі ВКЛ больш акцэнтаваў увагу на ходзе баявых дзеянняў на працягу вайны. Разам з тым, для ўсіх гісторыкаў характэрна адлюстраванне страшэнных спусташэнняў бел. земляў, прычым пры ацэнцы людскіх страт яны ў значнай ступені абапіраюцца на працы айчынных і замежных аўтараў, якія пабачылі свет яшчэ ў 1960–70-х г. (Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w drugiej połowie XVII wieku. Poznań, 1965; Карпачев А.М., Козловский П.Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII-XVIII в. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1968 г. Л., 1972). Праблемы, звязаныя з паліт. і сац.-эканам. становішчам бел. земляў у часы Паўн. вайны 1700–21, у т.л. і яе негатыўныя вынікі для эканомікі Беларусі, вывучае У.І.Пашкевіч. Значную ўвагу бел. даследчыкаў прыцягвае паліт. становішча Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 18 ст. Пытаннямі, звязанымі з падзеламі Рэчы Паспалітай і ўваходжаннем бел. земляў у склад Рас. імперыі, займаецца Я.К.Анішчанка. Праблемы, звязаныя з паліт. сітуацыяй у Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. і паўстанне 1794 пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі разглядаў таксама У.П.Емяльянчык.

У 1990-я г. вырасла цікавасць айчынных гісторыкаў да ўнутрыпаліт. жыцця бел. зямель 17–18 ст. Адной з першых прац, у якіх аналізуецца дзярж. лад Рэчы Паспалітай



у кантэксце гісторыі дзяржавы і права Беларусі, стала кніга Я.А.Юхо «Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі» (1992). Паліт. дзейнасць шляхты ВКЛ у 16–17 ст. даследуе П.А.Лойка. Мясцова-прадстаўнічыя органы ВКЛ 2-й пал. 16–пач. 17 ст. вывучае А.А.Радаман. Даследуюцца барацьба магнацкіх груповак у ВКЛ у сярэдзіне 17–18 ст., Барская канфедэрацыя (Прыбытка Г. Барацьба магнацкіх груповак у другой палове XVII–пачатку XVIII ст. // Спадчына. 1995. № 5; Яго ж. Барацьба магнацкіх груповак у XVIII ст. // Спадчына. 1996. № 1; Яго ж. Святло і цені Бара. Барская канфедэрацыя на Беларусі: перадумовы і ход // Гістарычная брама. 2003. № 1). Такім чынам, амаль поўнае ігнараванне бел. савецкай гістарыяграфіяй пытанняў паліт. развіцця бел. зямель у складзе Рэчы Паспалітай дзякуючы намаганням, якія робяцца гісторыкамі Беларусі ў апошні час, пачынае пераадольвацца.

У Літве паліт. гісторыя ВКЛ 17–18 ст. – прадмет даследаванняў Б.Дундуліса, Г.Слесарунаса, Ф.Слесарунаса, А.Янулайціса і інш.

Спецыфічнае месца, ускосна звязанае з пытаннямі ўнутры- і знешнепаліт. развіцця бел. зямель у складзе Рэчы Паспалітай, займае разгляд гісторыі войска ВКЛ 17–18 ст. Даследаванні па гэтай тэматыцы ў айчыннай гістарыяграфіі выключна рэдкія (Ткачоў М.А. «Зброя» гарадскіх жыхароў Беларусі ў часы сярэднявякоўя // Из истории науки и техники Белоруссии. Мн., 1988; Яго ж. Замкі і людзі. Мн., 1991; Сагановіч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI–XVII стст. Мн., 1994; Грыгор'еў М. Войска ВКЛ ад Сасаў да Касьцюшкі. Мн., 1994).

У Літве гісторыі войска ВКЛ 17–18 ст. прысвяцілі працы В.Ракуціс, А.Шапака і інш., у Польшчы – Г.Віснер, М.Лех, А.Рахуба і інш.

**Сацыяльна-эканамічная гісторыя ВКЛ 17–18 ст.** Пэўныя звесткі аб эканам. развіцці ВКЛ у 17–18 ст. ёсць у працах прадстаўнікоў рас. і польскай гістарыяграфіі 19 ст. Вывучэнне эканам. гісторыі Беларусі 17–18 ст. праводзілася гісторыкамі БДУ і Інбелкульта амаль з моманту іх стварэння. Сельскую гаспадарку феад. Беларусі даследавалі Т.І.Забела і К.І.Кернажыцкі (Забела Т. Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII сталецьця // Зап. аддзелу гуманітарных навук Бел. АН. Мн., 1928. Кн. 3; Кернажыцкі К. Гаспадарка старостваў на Беларусі і экономічны стан іх насельніцтва ў другой палове XVIII сталецьця // Зап. аддзелу гуманітарных навук Бел. АН. Мн., 1928. Кн. 3). У 1960–80-я г. вывучэнне аграрнай гісторыі Беларусі актывізавалася. У гэты час выдадзены грунтоўныя працы П.Р.Казлоўскага, З.Ю.Капыскага і В.І.Мялешкі, для якіх характэрна грунтоўная крыніцазнаўчая база, што дазволіла паспяхова выкарыстаць статыстычныя метады даследавання і дасягнуць высокай аргументаванасці высноў. Некаторыя іх палажэнні абвяргалі стэрэатыпы, якія трывала замацаваліся ў літаратуры папярэдняга часу. Так, Мялешка аспрэчыў тэзіс аб паступальным заняпадзе экономікі ВКЛ на працягу 17–18 ст. Ён адзначыў тэндэнцыю па стабілізацыі і аднаўленні гаспадаркі ў 1720–70-я г. [Мелешко В.И. К вопросу о состоянии экономики Белоруссии и Литвы в конце XVIII в. // Советское славяноведение. 1961, № 2; Яго ж. Handel i stosunki handlowe Białorusi wschodniej z miastami nadbałtyckimi w końcu XVII i w XVIII wieku // Zapiski historyczne. 1968. Z. 4; Яго ж. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII–XVIII в.). Мн., 1975]. Комплексная характарыстыка магнацкай гаспадаркі 2-й пал. 17–18 ст. праведзена Казлоўскім [Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII–XVIII в.: (по материалам магнатских вотчин). Мн., 1969; Яго ж. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в.: (центральная и западная зоны). Мн., 1974]. Ён разгледзеў земляробства, жывёлагадоўлю, птушкаводства, агародніцтва, садаводства, пчалярства, рыбалоўства, промыслы, будаўніцтва, вотчынную прамысловасць і адзначыў пэўную ролю магнацкіх гаспадарак у развіцці с.-г. і прамысловай вытворчасці. Казлоўскі прасачыў эвалюцыю феад. землеўладання і сял. землекарыстання ў перыяд разлажэння прыгонніцкай сістэмы і фарміравання капіталіст. ўкладу (Козловский П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII–первой половине XIX в. Мн., 1982). Капыскі зрабіў крыніцазнаўчы разгляд фондаў 694 і КМФ-5 Нац. гіст. архіва Беларусі, у якіх адлюстравана становішча бел. сялянства ў 16–1-й пал. 17 ст. (Копысский З.Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978). Яго кніга стала першай у бел. гістарыяграфіі сур'ёзнай крыніцазнаўчай працай па аграрнай тэматыцы. У 1980-я г. разгарнулася даследаванне гасп. развіцця вёскі ў межах усёй тэрыторыі Беларусі. Да аналізу сац.-эканам. становішча бел.



сялянства ў канцы 16–1-й пал. 17 ст. звяртаўся Капыскі. Праблеме эвалюцыі феад. рэнты ў прыватнаўласніцкіх маёнтках у 2-й пал. 16–18 ст. прысвечана манаграфія П.А.Лойкі (Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI–XVIII ст. Мн., 1991). Пытанні сац. пратэсту сялянства разгледзеў Мялешка (Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. Мн., 1982). Землеўладанне і землекарыстанне сялян усіх відаў уладанняў і ўсіх рэгіёнаў Беларусі ў 2-й пал. 16–18 ст. вывучаў В.Ф.Голубеў (Голубеў В.Ф. Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI–XVIII стст. Мн., 1992). Шматгадовыя напрацоўкі айчыннай гістарыяграфіі па пытаннях аграрнай гісторыі Беларусі, у т.л. 17–18 ст., знайшлі адлюстраванне ў 1-м томе калектыўнай працы «Гісторыя сялянства Беларусі» (Гісторыя сялянства Беларусі: У 3 т. Т. 1. Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г. Мн., 1997).

У пасляваенны перыяд выйшлі працы ўкр. даследчыка Дз.Л.Пахілевіча, у якіх разглядаліся аграрныя адносіны і гісторыя бел. і літ. сялянства ў Рэчы Паспалітай (Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI–XVIII вв. Львов, 1957; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966). У Літве сельскую гаспадарку і сялянства ВКЛ 17–18 ст. даследавалі Д.Буценас, П.Дундулене, Ю.Кяўпене, Р.Марчэнас, Ю.Юргініс, К.Яблонскіс і інш., у Польшчы – А.Жабка-Патаповіч, М.Б.Тапольская, Я.Юркевіч і інш.

На мяжы 19–20 ст. пачалося фундаментальнае вывучэнне гарадоў, рамяства і гандлю ВКЛ (Стукалич В.К. [Рэц. на кн.:] «Белоруссия и Литва». Очерки из истории городов в Белоруссии. Изд. П.Батюшкова. Витебск, 1894). Пры вывучэнні гар. тэматыкі феад. Беларусі ў 1950–60-я г. найб. ўвага айчынных гісторыкаў звярталася на эканам. развіццё гарадоў, а ў 1970–80-я г. вырасла цікавасць да іх сац.-паліт. ладу. Даследаваннем рамесніцкай вытворчасці ў гарадах Беларусі 17–18 ст. займаўся Ігнаценка (Игнатенко А.П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII–XVIII вв. Минск, 1963). Плённа працаваў у галіне вывучэння эканам. і сац.-паліт. развіцця гарадоў Беларусі 16–1-й пал. 17 ст. Капыскі [Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии (XVI–XVII вв.) Мн., 1966; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI-первой половине XVII в. Мн., 1975]. Класічнымі ў вывучэнні гар. тэматыкі можна лічыць таксама працы А.П.Грыцкевіча. [Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI–XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975; Яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI–XVIII вв.). Мн., 1979]. Вывучэнню Магілёва прысвечана манаграфія Мялешкі (Мелешко В.И. Могилев в XVI–середине XVII в. Мн., 1988). Даследаваннем бел. гарадоў 2-й пал. 17–18 ст. займаўся Я.М.Карпачоў (Карпачев А.М. Мануфактура с принудительным трудом и ее значение в развитии капитализма // Вопросы истории. 1962. № 8; Яго ж. Феодальные юридики в королевских городах Белоруссии XVII–XVIII вв. // Советское славяноведение. 1968. № 9; Яго ж. Міста і містечка Білорусії у другій половині XVIII ст. // Український історичний журнал. 1968. № 9). Сац.-эканам. развіццё гарадоў і генезіс капіталізму ў Беларусі ў 2-й пал. 18–1-й пал. 19 ст. даследуе А.М.Люты [Лютый А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII–первой половине XIX века. Мн., 1987; Яго ж. Генезис капитализма в промышленности Белоруссии (вторая половина XVIII–первая половина XIX вв.). Мн., 1991]. У 1990-х г. да праблемы бел. мястэчак 15–18 ст. звяртаўся Ю.М.Бохан [Бохан Ю.М. Аб месцы мястэчка ў структуры гарадскіх пасяленняў XV–XVIII стст.: (па матэрыялах мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1993. Ч. 1]. Пытанні арганізацыі гар. самакіравання разглядаюцца Н.В.Місарэвіч, С.П.Стрэнкоўскім і інш. (Місарэвіч Н.В. Магдэбургскае права на Беларусі. Гродна, 2003; Стрэнкоўскі С.П. Вольнасці і прывілеі гарадоў заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага. Мн., 1997; Яго ж. Дзейнасць органаў самакіравання гарадоў заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага // Пытанні гісторыі Беларусі. Мн., 1998).

Адначасова з бел. даследчыкамі да пытанняў урбаністычнага развіцця ВКЛ 17–18 ст. звярталіся замежныя гісторыкі. Сярод іх твораў вылучаюцца працы польск. вучонага С.Александровіча, прысвечаныя генезісу і развіццю мястэчак Беларусі і Літвы ў 16–1-й пал. 17 ст., іх засяленню, рамяству, гандлю і інш. аспектам [Alexandrowicz S. Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki. Białystok, 1961. T. 1; Яго ж. Kierunki produkcji rzemieślniczej i przemysłowej w miasteczkach

Białorusi i Litwy (XVI do połowy XVII w.) // Zeszyty naukowe Uniwersitetu im. A.Mickiewicza. Historia. Poznań, 1964. Z. 6; Яго ж. Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1965. T. 27; Яго ж. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T. 7]. Гарады і гандаль ВКЛ 17–18 ст. вывучалі таксама польскія даследчыкі М.Б.Тапольская, М.Лаўмянская і інш., укр. вучоныя Ф.В.Кліменка (Ф.В.Клименко. Западно-русские цехи XVI–XVIII вв. Киев, 1914), С.А.Шчарбакоў, літ. навукоўцы А.Балюліс, Э.Мейлус, Ю.Юргініс і інш. У 1968 у Вільнюсе выйшла грунтоўная гісторыя сталіцы ВКЛ (Vilniaus miesto istorija nuo seniausių laikų iki Spalio revoliucijos. Vilnius, 1968).

**Царкоўныя і этнаканфесіянальныя адносіны ў ВКЛ у 17–18 ст.** Праблемы царк. і этнаканфесіянальных адносін у ВКЛ належаць да шэрагу найб. вострых у айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. Найб. дыскусіі выклікаюць тэмы, звязаныя з царк. уніяй і ўзаемадачыненнямі правасл. і каталіцкай канфесій. Яны сягаюць сваімі каранямі ў канец 16–1-ю пал. 17 ст., калі літаратура па рэліг. пытаннях разглядалася як сродак міжканфесіянальнай барацьбы. Прыхільнікі уніі перыяду да кан. 18 ст. (Ц.Жахоўскі, Л.Кішка, Л.Крэўза, І.Кульчынскі, І.Пацей, І.Руцкі, Я.Суша і інш.) разглядалі яе як дзейсны крок у кірунку выхаду праваслаўя з крызісу, які, паводле іх меркаванняў, стаў вынікам адступніцтва ўсх. царквы ад рымскага касцёла. Праціўнікі рашэнняў Берасцейскага сабора 1596 (К.Астрожскі, А.Вішанскі, Г.Каніскі, З.Капысценскі, М.Сматрыцкі, А.Філіповіч, Хрыстафор Філалет і інш.) абвінавачвалі уніятаў у адступленні ад веры і традыцый продкаў, а прычыны заключэння уніі бачылі ў імкненні іерархаў набыць месцы ў Сенаце Рэчы Паспалітай.

Чарговы ўсплёск цікавасці да міжканфесіянальных праблем прыпаў на канец 18–пач. 19 ст., калі змена знешнепаліт. сітуацыі ў рэгіёне і падзелы Рэчы Паспалітай востра паставілі пытанне пра пошук ідэалагічнага абгрунтавання ліквідацыі гэтай дзяржавы. У рас. гістарыяграфіі зацікаўленасць рэліг. гісторыяй Рэчы Паспалітай найперш выявілася ў вострай крытыцы уніі і каталіцызму. Адным з першых, хто звярнуўся да гэтага пытання, быў М.М.Бантыш-Каменскі, які імкнуўся паказаць прыгнечанае становішча руска-правасл. насельніцтва Рэчы Паспалітай пад каталіцка-уніяцкім ярмом і, адпаведна, апраўдаць ролю царскага ўрада па вызваленні сваіх аднаверцаў (Бантыш-Каменский Н.Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии, с показанием начала и важнейших, в продолжении оной через два века, приключений, паче же о бывшем от римлян и униятов на благочестивых тамошних жителей гонении. М., 1805). Процілеглага пункту гледжання прытрымліваліся прафесары Віленскага ун-та І.Анацэвіч, М.К.Баброўскі, Даніловіч, П.Сасноўскі, Ю.Ярашэвіч, а таксама Нарбут (Бобровский П.О. Михаил Кириллович Бобровский (1785–1848), ученый, славист-ориенталист. СПб, 1889; Jaroszewicz J. Obraz Litwy pod względem jej cywilizacji, od czasów najdawniejszych do końca wieku XVIII. Cz. 1–3. Wilno, 1844–45; Narbutt T. Dzieje starożytne narodu Litewskiego. T. 9. Wilno, 1841). У іх працах знайшла адлюстраванне трактоўка уніі як канфесіі, што спрыяла захаванню бел. народам рыс самабытнасці, у параўнанні з палякамі і рускімі. Блізкія пазіцыі ў разуменні значэння уніі для ніжэйшых слаёў бел. і ўкр. народаў займаў З.Даленга-Хадакоўскі (Аксамітаў А.С., Малаш Л.А. З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі-Хадакоўскага. Мінск, 1991).

Розныя плыні ў трактоўцы рэліг. становішча ў Рэчы Паспалітай былі ўласцівы і для гістарыяграфіі сярэдзіны 19–пач. 20 ст. Антыкаталіцкая і антыуніяцкая скіраванасць выразна прасочваецца ў працах мітрапаліта Макарыя, І.А.Чыстовіча, Р.Я.Кіпрыяновіча, М.Дз.Ізвекава, хоць праца першага вылучаецца грунтоўнасцю і імкненнем да аб'ектыўнага аналізу прычын аслаблення правасл. царквы на землях Беларусі і Украіны (Макарий. История русской церкви. Т.10, кн.1. СПб., 1881.; Чистович И. Очерк истории западнорусской церкви. Ч. 1–2. СПб., 1882.; Киприянович Г. Исторический очерк православия, католичества и унии в Белоруссии и Литве с древнейшего до настоящего времени. Вильна, 1899; Извеков Н.Д. Исторический очерк состояния православной церкви в Литовской епархии за время с 1839 по 1889 г. М., 1899). Адмоўна ацэньвалі ролю для Зах. Русі каталіцтва і уніі, якія прыўносілі сюды элементы зах. культуры, славянафілы І.В.Кірэеўскі, Салаўёў, прыхільнікі заходнерусізму Каяловіч, К.А.Гаворскі, А.Шчарбіцкі, прадстаўнікі бурж. гіст. навукі Ю.Ф.Крачкоўскі, П.М.Жуковіч, І.І.Малышэўскі, А.П.Сапуноў і інш. (Коялович М.О. Литовская церковная уния. Т. 1–2. СПб.,



1859–61.; Яго ж. История возсоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873; Яго ж. История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям. СПб., 1884; Крачковский Ю.Ф. Очерки униятской церкви // Чтения в Императорском обществе истории и древностей российских при Московском университете. 1871; Щербицкий О.В. Судьбы православия и русской народности в б. Литовском государстве и в частности в г. Вильне. Вильна, 1892; Яго ж. Русский язык и православная вера в бывшем Литовском государстве. Вильна, 1906; Малышевский И.И. Западная Русь в борьбе за веру и народность. Ч. 1–2. СПб., 1897–99.; Сапунов А. Исторические судьбы Полоцкой епархии с древнейших времен до половины XIX в. // Витебская старина. Витебск, 1889. Т. 5; Жукович П.Н. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (до 1609 г.). СПб., 1901; Яго ж. Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией (с 1609 г.). Вып. 1–6. СПб., 1903–12).

З пачаткам станаўлення бел. нац. гістарыяграфіі да пытанняў царк. і этна-канфесіянальных адносін звярталіся Доўнар-Запольскі, Ігнатоўскі, Ластоўскі, А.В.Станкевіч, А.І.Цвікевічі інш. Для іх характэрна шырокае разуменне трансфармацыі уніі: ад спробы акаталічвання правасл. насельніцтва да інстытута, які спрыяў захаванню самабытнасці бел. народа. Досыць супярэчлівае стаўленне да уніяцкай царквы прысутнічае ў працах Дз.І.Даўгялы, М.М.Нікольскага, У.І.Пічэты [Даўгяла З. Урадавыя адносіны да уніятаў на Меншчыне ў часы Паўла І // Гістарычна-археолёгічны зборнік. Мн., 1927. № 1; Станкевіч А.В. Хрысьціянства і беларускі народ: (Спроба сінтэзы). Вільня, 1940; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV–XVI вв. М., 1961; Яго ж. Белорусский язык как фактор национально-культурный. Мн., 1991; Никольский Н.М. История русской церкви. Мн., 1990; Ластоўскі В. Выбраныя творы. Мн., 1997].

У савецкі час вывучэнне пытанняў царк. і этнаканфесіянальных адносін не належала да прыярытэтных у айчыннай гістарыяграфіі. Рэліг. сітуацыя на бел. землях у складзе Рэчы Паспалітай разглядалася праз прызму агульнага тэзіса аб «польска-каталіцкай агрэсіі» супраць бел. народа. Такую ацэнку маюць прысвечаныя рэліг. тэматыцы працы Я.Н.Мараша [Мараш Я.Н. Из истории борьбы народных масс Белоруссии против экспансии католической церкви. Мн., 1969; Яго ж. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии (1569–1795). Мн., 1971; Яго ж. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. Мн., 1974]. Антыкаталіцкая скіраванасць прасочваецца ў працах Абэцэдарскага і Ігнаценкі [Абецадарскі Л.С. У святле неабвержных фактаў. Мн., 1969; Яго ж. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI–XVII в. Мн., 1978; Игнатенко А.П. Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII–XVIII в.) Мн., 1974]. Дзейнасці ордэна езуітаў прысвечаны працы Т.Б.Бліновай, у якіх адзначаюцца яго дасягненні ў галіне адукацыі (Блинова Т.Б. Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Яе ж. Иезуиты в Беларуси: Роль иезуитов в организации образования и просвещения. Гродно, 2001). Шэрагам аспектаў функцыянавання рэфармацыйных цэнтраў на бел. землях у 16–1-й пал. 17 ст. займаецца Л.С.Іванова. Гісторыі правасл. царквы прысвечана праца М.С.Корзуна (Корзун М.С. Русская православная церковь на службе эксплуататорских классов. X век–1917 год. Мн., 1984). Гісторыя уніяцкай царквы ў этнакультурным развіцці Беларусі грунтоўна распрацоўваецца С.В.Марозавай і Падокшыным [Марозава С.В. Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596–1839 гг.). Гродна, 1996; Яе ж. Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596–1839 гады). Гродна, 2001; Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура: Філасофска-гістарычны аналіз. Мн., 1998]. З нагоды 400-гадовага юбілею Берасцейскай уніі ў 1996 была праведзена канферэнцыя і выдадзены зборнік артыкулаў [З гісторыі уніяцтва ў Беларусі: (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996]. Спецыфічную тэматыку, прысвечаную гісторыі стараабрадніцтва на бел. землях, распрацоўваюць А.А.Гарбацкі і інш. (Гарбацкі А.А. Стараабрадніцтва на Беларусі ў канцы XVII–пачатку XX стст. Брэст, 1999; Короткая Т.П., Прокошина Е.С., Чудникова А.А. Старообрядчество в Беларуси. Мн., 1992). У апошні час у айчыннай гістарыяграфіі расце цікавасць і да гісторыі нехрысціянскіх канфесій. У прыватнасці, на пытанні, звязаныя з гісторыяй мусульманства на бел. землях у складзе Рэчы Паспалітай, звяртаюць ўвагу С.У.Думін, І.Б.Канапацкі і А.І.Лакотка (Думін С.У., Канапацкі І.Б. Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. Мн., 1993; Лакотка А.І. Бераг вандраванняў, ці адкуль у Беларусі мячэці. Мн., 1994). Змены ў грамадстве з 2-й пал. 1980-х г.



абумовілі актывізацыю бел. даследчыкаў у вывучэнні царк. і этнаканфесіянальных адносін, прычым большасць з іх імкнецца да пазбягання ідэалагічнай афарбоўкі і да ўзважанага падыходу ў ацэнцы асобных канфесій. Большая ўвага звяртаецца і на культурна-асветніцкую ролю царквы.

Сваё бачанне ролі каталіцтва і уніі ў гіст. лёсе Рэчы Паспалітай выкладалі польскія гісторыкі 2-й пал. 19–пач. 20 ст. М.Бабжынскі, О.Галецкі, Калінка, Ф.Канечны, Э.Лікоўскі, А.Прахаска, К.Хадыніцкі і інш. (Бобржинский М. Очерк истории Польши. СПб., 1891; Kalinka W. Schizma i unia: Dwie konferencje prowiedziane w kościele P. Maryi w Krakowie 16 i 17 marca 1883 r. Lwów, 1883; Prochaska A. Z dziejów Unii Brzeskiej // Kwartalnik historyczny. 1896. T. 10). Для іх прац характэрна неадназначная трактоўка пазіцый каталіцкага епіскапата, урада Рэчы Паспалітай і вярхоў «рускай» царквы гэтай дзяржавы ў працэсе рэалізацыі рашэнняў Берасцейскага сабора 1596, якія спрычыніліся да расколу грамадства па канфесіянальнай прыкмеце і аслаблення краіны.

**Культура ВКЛ у 17–18 ст.** Ідэалагічныя догмы, якія ў савецкія часы абмяжоўвалі даследаванне шэрагу праблем гісторыі бел. земляў у складзе Рэчы Паспалітай, у меншай ступені здолелі стрымаць вывучэнне бел. культуры 17–18 ст. Аднак меў месца падзел культуры гэтага часу на ўласна «беларускую», г.зн. сялянска-мяшчанскую, праваслаўную, якой супрацьпастаўлялася культура «панская», «польская», якую звязвалі з т.зв. «каталіцкай экспансіяй». Тым не менш, на сённяшні дзень існуе вял. колькасць прац айчынных даследчыкаў, прысвечаных матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў у 17–18 ст.У значнай ступені гэта абумоўлена тым, што яна з'яўляецца аб'ектам даследавання цэлага шэрагу навук і дысцыплін – гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, мастацтвазнаўства, тэатразнаўства, музыказнаўства, літаратуразнаўства, мовазнаўства, гісторыі педагогікі, краязнаўства і г.д.

Цікавасць да культурных помнікаў бел. земляў перыяду Рэчы Паспалітай характэрны яшчэ для прац краязнаўцаў 19 ст., якія апісвалі славутасці роднай зямлі, для этнографаў, даследчыкаў бел. фальклору. Гісторыя культуры Беларусі цесна звязвалася з гісторыяй самога бел. этнасу, цікавасць да яе не знікала ніколі, нягледзячы на змены ўлад і паліт. курсаў. Асабліва хуткімі тэмпамі ідзе вывучэнне культуры Беларусі ў апошнія тры дзесяцігоддзі. Толькі абагульняльныя працы па гісторыі бел. культуры эпохі феадалізму складаюць унушальны спіс (Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Т. 1. Мн., 1928; Молчанова Л.А. Материальная культура белорусов. Мн., 1968; Яе ж. Очерки материальной культуры белорусов XVI–XVIII вв. Мн., 1981; Промыслы і рамёствы Беларусі. Мн., 1984; Гісторыя беларускага мастацтва. Т. 1–2. Мн., 1987–88; Беларусы. Т. 1–6. Мн., 1995–2002; Лыч Л., Навіцкі У. Гісторыя культуры Беларусі. Мн., 1996; Лазука Б.А. Беларускае барока: Гісторыка-тэарэтычныя праблемы стылю. Мн., 2001, і інш.).

Пачынаючы з 1970-х г. рэзка вырасла цікавасць да матэрыяльнай культуры бел. земляў 14–18 ст. з боку бел. археолагаў. З'явілася значная колькасць грунтоўных прац, у якіх разглядаецца матэрыяльная культура перыяду Рэчы Паспалітай асобных населеных пунктаў ці рэгіёнаў, а таксама асобныя кірункі чалавечай дзейнасці ў галіне матэрыяльнай культуры (будаўніцтва і архітэктура, ганчарства, металаапрацоўка і г.д). Найб. поўна дасягненні айчыннай археалогіі ў даследаванні матэрыяльнай культуры бел. земель 16–18 ст. адлюстраваны ў кн. «Археалогія Беларусі» (т. 4, 2002).

Значную ўвагу бел. даследчыкаў прыцягвае архітэктура 17–18 ст. Шмат зрабіў для вывучэння абарончага дойлідства Беларусі М.А.Ткачоў (Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Замки Белоруссии. Мн., 1987; Яго ж. Замкі і людзі. Мн., 1991). Важнае значэнне для даследавання будаўніцтва і архітэктуры перыяду Рэчы Паспалітай маюць працы А.А.Трусава (Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI–XVII вв. Мн., 1988). Да разгляду гісторыі архітэктуры, планіроўкі і горадабудаўніцтва Беларусі 16–18 ст. звярталіся Т.В.Габрусь, А.І.Лакотка, У.А.Чантурыя, Ю.А.Якімовіч і інш. (Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1. Дооктябрьский период. 3 изд. Мн., 1985; Якимович Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI–середины XVII в. Мн., 1991; Лакотка А.І. Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мн., 1999; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001).

Значныя напрацоўкі айчынных навукоўцаў у вывучэнні выяўленчага мастацтва. Найбольшы прыярытэт аддаваўся даследаванню жывапісу, аднак не засталіся па-за



ўвагай даследчыкаў скульптура і афармленне кнігі (Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода. Мн., 1969; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI–XVIII стагоддзяў. Мн., 1984; Црашчатава В.В. Старажытнабеларускі манументальны жывапіс XI–XVIII стст. Мн., 1986; Лявонава А.К. Старажытнабеларуская скульптура. Мн., 1991; Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў. Мн., 1992; Хадыка А.Ю., Хадыка Ю.В. Непаўторныя рысы: З гісторыі беларускага партрэта. Мн., 1992; Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X–XVIII стагоддзях. Мн., 1993, і інш.). Павелічэнне колькасці матэрыялаў па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, у т.л. здабытых на працягу апошніх дзесяцігоддзяў у час археалагічных раскопак, абумовіла з'яўленне новых прац, прысвечаных гэтай галіне мастацкай культуры [Кацер М.С. Народно-прикладное искусство Белоруссии: (от первобытного общества до 1917 г.). Мн., 1972; Яніцкая М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI–XVIII стст.). Мінск, 1977; Милюченков С.А. Белорусское народное гончарство. Мн., 1984, і інш.]. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва вывучаецца таксама ў працах археолагаў, прысвечаных асобным катэгорыям археалагічных знаходак. Даследаваннем бел. кафлі займаюцца Ю.А.Заяц, В.М.Ляўко, Л.Р.Панічава, Трусаў, керамікі – І.У.Ганецкая, Н.І.Здановіч і У.В.Угрыновіч. Кавальствам на бел. землях цікавіўся Г.М.Сагановіч.

Знайшлі адлюстраванне ў працах айчынных даследчыкаў праблемы, звязаныя з развіццём на бел. землях у 16–18 ст. музычнай культуры, тэатра, літаратуры, філасофіі, адукацыі, нар. духоўнай культуры [Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Костюковец Л.Ф. Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли в Белоруссии в XVI–XVIII вв. Мн., 1978; Няфёд У.І. Гісторыя беларускага тэатра. Мн., 1982; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1. Мн., 1983; Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985; Философская и общественно-политическая мысль Белоруссии и Литвы. Дооктябрьский период: закономерности развития, проблемы исследования. Мн., 1987; Каханоўскі Г.А., Малаш Л.А., Цвірка К.А. Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Барышев Г.И. Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992; Назіна І.Дз. Беларускія народныя музычныя інструменты. Мн., 1997; Дадзіёмава В.У. Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. Мн., 2001; Яе ж. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя. Мн., 2002]. Даследаванне многіх аспектаў бел. культуры адбываецца ў рамках сумежных з гісторыяй навуковых дысцыплін.

У айчыннай гістарыяграфіі бел. земель у складзе Рэчы Паспалітай назіраецца пэўны дысбаланс, які выявіўся ў найбольшай распрацаванасці пытанняў сац.-эканам. развіцця і культуры. Менш даследаваны пытанні паліт. развіцця і рэліг. жыцця. Да нядаўняга часу больш-менш сур'ёзныя напрацоўкі па гэтых праблемах выходзілі з-пад пяра альбо польскіх, альбо рас. гісторыкаў, і толькі на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў бел. навукоўцы спрабуюць запоўніць лакуны. Адсутнасць значных традыцый у вывучэнні пытанняў паліт. і канфесіянальнай гісторыі абумовілі меншую глыбіню навук. распрацовак і не такі ўзважаны падыход, як пры даследаванні сац.-эканам. гісторыі. Зварот да нац.-дзяржаўнай канцэпцыі бел. мінуўшчыны дазволіў значнай колькасці айчынных навукоўцаў істотна пашырыць тэматыку даследаванняў і акцэнтаваць увагу на суб'ектнай ролі насельніцтва Беларусі ва ўласнай гісторыі. Аднак абмежаванне даследаванняў геаграфічнымі межамі сучаснай Рэспублікі Беларусь у шэрагу выпадкаў абумоўлівае неадэкватную ацэнку ролі бел. земляў у гісторыі цэнтральна-ўсходнееўрапейскага рэгіёна. Шэраг сюжэтаў, надзвычай важных для гіст. лёсаў ВКЛ, застаюцца практычна па-за ўвагай айчынных даследчыкаў. Гэта з'ява прыводзіць да размежавання гісторыі Беларусі, з аднаго боку, і гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай, з другога, што аб'ектыўна надае айчыннай гістарыяграфіі налёт рэгіянальнасці, правінцыяльнасці. Такім чынам, для сучаснай бел. гіст. навукі застаецца вельмі надзённым стварэнне прац, прысвечаных комплекснаму даследаванню мінулага бел. земляў як часткі гісторыі дзярж. утварэнняў, у склад якіх яны ўваходзілі ў розныя часы. Гэта дапаможа больш поўна даследаваць гісторыю Беларусі ў еўрапейскім кантэксце і месца нашай Бацькаўшчыны ў працэсах, што адбываліся ў Еўропе ў 17–18 ст.

У Літве гісторыю выяўленчага мастацтва, архітэктуры, музыкі ВКЛ 17–18 ст. дасле-



давалі В.Дрэма, М.Матушакайтэ, Ю.Трылупайтэне, Ю.Юргініс і інш. Абагульняльныя працы выдалі Юргініс (Jurginis J. Lietuvos meno istorijos bruozai. Vilnius, 1960), Т.Адамоніс і К.Чэрбуленас (Adomonis T., Cerbulenas K. Lietuvos TSR dailes ir architekturos istorija. T. 1. Vilnius, 1987), з'явілася абагульняльная праца па гісторыі архітэктуры Літвы (Lietuvos architekturos istorija. T. 1–2, 1987–94). Мастацтву ВКЛ 17–18 ст. прысвяцілі даследаванні польскія вучоныя П.Багдзевіч, А.Бараноўскі, Т.Бернатовіч, Е.Кавальчык, Э.Лапацінскі, Е.Пашэнда і інш.

Сціслы агляд асноўных, пераважна сінтэтычных прац па агульнай гісторыі ВКЛ і асобных яе сферах, сведчыць пра значныя дыспрапорцыі ў развіцці айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. Гісторыкі Беларусі, нягледзячы на слабае развіццё манаграфічных фундзіраваных даследаванняў, найбольш прычыніліся да распрацоўкі асобных праблем, асабліва ў сферах культурнай, моўнай, этнічнай і сац.-эканам. гісторыі. Развіццё дзярж.-прававых інстытутаў ВКЛ, сац.-паліт. зрухі, знешнепаліт. і царкоўна-канфесіянальныя адносіны Беларусі з Расіяй – асн. тэмы рас. гістарыяграфіі канца 19–20 ст. У шырокім кантэксце гісторыі найбольш вiдавочнымі дасягненнямі і сінтэтычнымі працамі адзначана польская гістарыяграфія. Прыкметны рост прафесійнага ўзроўню ў 1920–30-х г. і апошнія дзесяцігоддзі 20 ст. прадэманстравалі многія працы літ. даследчыкаў. Асн. недахопам замежнай, асабліва польскай і літ. гістарыяграфіі, можна лічыць яе пераважную, нярэдка нават выключную замкнёнасць у сваёй нац. гісторыі ў яе вузкім разуменні, што не адпавядае гіст. рэчаіснасці і часткова з'яўляецца рэліктам старой дагматычнай гістарыяграфіі і водгукам паліт. баталій. Развіццю бел. гістарыяграфіі ВКЛ перашкаджае адсутнасць моцных гістарыяграфічных традыцый, нераспрацаванасць шмат якіх сфер і кірункаў айчыннай гісторыі (праблемы знешняй і ўнутранай палітыкі, дзяржаўнасці, царкоўна-канфесіянальных адносін), распаўсюджанасць спрошчаных гістарыяграфічных стэрэатыпаў і міфалагем у значнай частцы навук.-папулярнай літаратуры і падручнікаў.

*Літ.*: Цьвікевіч А. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мн., 1929 (2 выд. Мн., 1993); Ochmański J. Lituanistika w Polsce (do 1945 r.) // Roczniki historyczne. 1969. R. 34; Jablonskis K. Istorija ir jos šaltiniai. Vilnius, 1979; Копысский З.Ю., Чепко В.В. Историография БССР: Эпоха феодализма. Мн., 1986; Wojtkowiak Z. Chrystianizacja Litwy w historiografii polskiej ostatniego czterdziestolecia // Chrystianizacja Litwy. Kraków, 1987; Иоффе Э.Г. Из истории белорусской деревни: (Сов. историография соц.-экон. развития бел. деревни середины XVII–первой половины XIX в.). Мн., 1990; Петрыкаў П.Ц. Гістарыяграфія Вялікага княства Літоўскага // Весці АН Беларусі. Сер. гуман. навук. 1993. № 3; Карев Д. Белорусская историография в XVI–начале XX вв. // Просфонима. Leopoli, 1995. Вып. 5; Kłoczowski J. East-Central Europe in the historiography of the countries of the region. Lublin, 1995; Kiaupienė J. Historiografia litewska o niektórych zagadnieniach stosunków litewsko-polskich między Krewem a Lublinem // Profesor Henryk Łowmiański: Życie i dzieło. Poznań, 1995; Гістарыяграфія гісторыі Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1996. Т. 3; Яковенко Н. У пошуках витоків: проблеми білоруської історіографії Великого князівства Литовського з перспективи 1991–1992 рр. // Історія, історіософія, джерелознавство. Київ, 1996; М.М.Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі: (да 90-х угодкаў вучонага). Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Мінск, 14–15 лютага 1996 г. Мн., 1997; Шевченко Н.В. Білорусько-Литовська держава: нові концептуальні засаді сучасної білоруської історіографії // Український історичний журнал. 1997. № 2; Гістарычная навука і гістарычная адукацыя ў Рэспубліцы Беларусь: Матэрыялы II Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў. Мінск, 10–11 красавіка 1997 г. Мн., 1999; Запруднік Я. Развіццё беларусазнаўчых доследаў на Захадзе // Кантакты і дыялогі. 1999. № 11–12; Bumblauskas A. Ar būta marksizmo sovietineje lietuviu istoriografijoje? // Tarp istorijos ir būtovės. Vilnius, 1999; Kruczkowski T. Dzieje Białorusi oraz stosunki polsko-białoruskie w świetle historiografii rosyjskiej drugiej połowy XIX i początku XX wieku // Przegląd Wschodni. 2000. T. 6. Z. 3(23).

***Юрась Бохан* (17–18 ст.), *Георгій Галенчанка* (13–16 ст.).**



**Абаленскі** (Оболенский) Міхаіл Андрэевіч [1805—12(24).1.1873], расійскі гісторык, археограф. Служыў у войску, у 1831—33 у адміністрацыі Царства Польскага, з 1833 у Маскоўскім гал. архіве Мін-ва замежных спраў (з 1840 дырэктар). Сабраў і выдаў шмат крыніц па гісторыі Расіі, пераважна 16—17 ст. У «Зборніку князя Абаленскага» («Сборник князя Оболенского», Масква, вып. 1—12, 1838—59) змешчаны дакументы па абранні вял. князя ВКЛ Жыгімонта Старога каралём Польшчы (1506), матэрыялы пасольстваў ВКЛ у Маскву 1556, 1576, інструкцыя Жыгімонта III Л.Сапегу як паслу ў Маскву ў 1600, матэрыялы рас. пасольства ў Рэч Паспалітую ў 1605 і пасольстваў Рэчы Паспалітай у Расію 1608 і 1615, дакументы пра дзейнасць самазванцаў у Расіі і інш. У зб. «Замежныя творы і акты, якія адносяцца да Расіі» («Иностранные сочинения и акты, относящиеся до России», Масква, вып. 1—4, 1847—48) апублікаваў ліст вял. гетмана ВКЛ М.Радзівіла Рудога і інш. дакументы пра *бітву на Уле 1564*, польскі дзённік ваен. паходу 1609 на Смаленск, матэрыялы пра Смутны час у Расіі і інш. Удзельнічаў у выданні *«Кнігі пасольскай Метрыкі Вялікага княства Літоўскага…»* (т. 1—2, 1843), кн. «Ярлык хана Залатой Арды Тахтамыша да польскага караля Ягайлы 1392—1399» («Ярлык хана золотой орды Тохтамыша к Польскому королю Ягайлу 1392—1399», Казань, 1850; тэкст арыгінала, стараж.-бел. пераклад). Выдаў «Супрасльскі рукапіс, які ўтрымлівае Наўгародскі і Кіеўскі скарочаныя летапісы» («Супрасльская рукопись, содержащая Новгородскую и Киевскую сокращенные летописи», Масква, 1836, гл. *Супрасльскі рукапіс, Валынскі кароткі летапіс*), «Летапісец Пераяслаўля Суздальскага» («Летописец Переяславля Суздальского», Масква, 1851), «Новы летапісец, складзены ў цараванне Міхаіла Фёдаравіча» («Новый летописец, составленный в царствование Михаила Федоровича», Масква, 1853) і інш. Чл. шматлікіх навук. т-ваў, у т.л. Віленскай археалагічнай камісіі.

*Літ.*: Костомаров Н. Князь М.А.Оболенский // Рус. архив. 1873. № 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**абат** [лац. abbas (abbatis) ад грэч. abba бацька], настаяцель каталіцкага манастыра — абацтва (настаяцельніца — абатыса). Першапачаткова паводле статута выбіраўся манахамі і зацвярджаўся біскупам, фактычна назначаўся свецкімі магнатамі. У больш агульным значэнні — святчэннаслужыцель у каталіцкай царкве.

**«Абданк»**, герб, гл. *«Габданк»*.

**абласныя прывілеі**, заканадаўчыя акты ВКЛ, якія юрыдычна замацоўвалі аўтаномныя правы некат. зямель (княстваў, ваяводстваў, паветаў). Выдаваліся вял. князямі ВКЛ. Першыя А.п. выдадзены Полацкай і Віцебскай землям паміж 1392—99. Найб. вядомыя А.п.: Бельскія 1501, 1547; Валынскія 1501, 1509, 1547; Віцебскія 1503, 1509, 1561; Дарагічынскія 1511, 1547; Жамойцкія 1422, 1492, 1574; Кіеўскія 1507, 1529; Мсціслаўскі 1551; Навагародскі 1440; Полацкія 1511, 1547, 1580, 1634, 1699; Смаленскі 1505. У іх гарантаваліся маёмасныя і асабістыя правы жыхароў, замацаваны абавязкі вял. князёў не ўмешвацца ў царк. справы правасл. зямель ВКЛ. Нормы, змешчаныя ў А.п., паходзілі з мясц. звычаёвага права, а таксама выпрацоўваліся адм. і суд. практыкай, якая склалася за час знаходжання гэтых зямель у складзе ВКЛ. Выдача А.п. і іх неаднаразовае пацвярджэнне мелі дзярж.-прававы характар. Наяўнасць А.п. сведчыла пра асаблівы статус пэўнай тэрыторыі ў дзяржаве, яе аўтаномныя правы. Такія прывілеі з'яўляюцца каштоўнай крыніцай пры даследаванні сац. і саслоўнай структуры грамадства.

*Літ.*: Ясинский М.Н. Уставные земские грамоты Литовско-Русского государства. Киев, 1889; Леонтович Ф.И. Источники русско-литовского права: Общий обзор источников. Договоры. Земские и областные привилеи. Варшава, 1894; Якубовский И.В. Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журн. М-ва нар. просвещения. 1903. № 4, 6; Юхо И.А. Правовое положение населения Белоруссии в XVI в. Мн., 1978; Яго ж. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; Machovenko J. Nielietuviškų žemių teisinė padėtis Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje (XIV—XVIII a.). Vilnius, 1999.

***Язэп Юхо.***

**аблегат** (ад лац. ablegatus пасол), 1) папскі легат. 2) Пасол з правам дарадчага голасу. Найчасцей у ВКЛ А. называлі гар. паслоў, якія ехалі да караля, скарбу, на соймы і соймікі, на пасяджэнні Трыбунала ВКЛ, задворнага асэсарскага,



каптуровага, гродскага, земскага і інш судоў. Права пасылкі А. на соймы ў Рэчы Паспалітай мелі Кракаў (з канца 14 ст.), Гданьск, Варшава, Львоў, Камянец-Падольскі, у ВКЛ — Вільня (1568), Магілёў (1661), паводле няпэўных звестак, Гародня (1667?), Віцебск (1677?) і Друя. У ВКЛ права публічнага ўдзелу ў паліт. жыцці давалася разам з набілітацыйнымі прывілеямі гараджанам Вільні (1565) і Магілёва (1661). Але і да гэтага каралеўскія лісты і пашпарты дазвалялі бяспадатковы праезд А. да караля, на соймы, суды і па інш. гарадскіх справах. Вядомы ліст Жыгімонта III ад 9.6.1588, яго канфірмацыя ліста Уладзіслава IV ад 8.3.1633 і генеральны пашпарт Яна III ад 7.7.1682 магілёўскім А., у якіх яны вызваляліся ад маставога, грэблевага і інш. падаткаў. А. адпраўляліся ў пасольствы пасля пастановы сесіі магістрата, дзе іх выбіралі і давалі ім інструкцыі. Шматлікія падарожныя рэестры сведчаць пра вял. выдаткі з гар. скарбу. Вял. грошы ішлі на ўсемагчымыя прэзенты для залагоджвання дзярж. ураднікаў — ад канцлера і маршалка да павятовых паслоў. Інструкцыі патрабавалі дамагацца пацвярджэння папярэдніх правоў горада і атрымання новых. У соймавых дакументах амаль нічога не гаворыцца аб удзеле А. у пасяджэннях. Толькі сярод подпісаў пад ухваламі сустракаюцца прозвішчы прадстаўнікоў найб. буйных гарадоў — Кракава, Варшавы і Вільні.

*Літ.*: K o w a l e n k o W. Geneza udziału stołecznego miasta Wilna w Sejmach Rzeczypospolitej // Ateneum Wileńskie. 1925—6. Z. 10—11. 1927. Z. 12; Беларускі архіў. Т. 1. Мн., 1927; W a s i l e w s k i T. Nobilitacje miast w dawnej Rzeczypospolitej Obojga Narodów//Czas, przestrzeń, praca w dawnych miastach. Warszawa, 1991; Я ц к е в і ч З. Набілітацыйныя прывілеі для гарадоў ВКЛ: Магчымасці і рэалізацыя на прыкладзе Магілёва // Białostocczyzna 2002. № 1—2; B a r d a c h J., L e ś n o d o r s k i B., P i e t r z a k M. Historia ustroju i prawa polskiego. 7 wyd. Warszawa, 2003.

***Зміцер Яцкевіч.***

**абозны**, урад (пасада) у войску ВКЛ. Вялікі А. займаўся раскватараваннем войска, выбарам месца пад лагер, яго ўмацаваннем. Урад уведзены ў 1633. Сойм 1717 устанавіў яму аплату ў памеры 15 000 злотых штогод. Польны (вайсковы) А. першапачаткова быў намеснікам вялікага А., а пасля пераняў яго функцыі, калі той стаў намінальным дыгнітарскім урадам. Магло быць некалькі польных А. (звычайна 2). У 18 ст. польны А. таксама стаў дыгнітарскім урадам. Прызначаўся гетманам, з 1768 пажыццёва. У 18 ст. існавалі намінальныя ўрады А. у паветах.

***Валерый Пазднякоў.***

**Абрагам** (Abraham) Уладзіслаў Генрык Францішак (10.10.1860, г. Самбар—15.10.1941), польскі гісторык права і царквы. Чл. Польскай АН у Кракаве (1902), д-р габілітаваны (1886), праф. звычайны (1890). Вучыўся ў Кракаўскім (1878—83) і Берлінскім (1885) ун-тах. З 1886 выкладаў у Кракаўскім, у 1888—1939 — у Львоўскім ун-це (у 1899—1900 яго рэктар), адначасова ў 1935—39 — у Каталіцкім ун-це ў Любліне. Даследаваў усеагульнае і польскае кананічнае права, гісторыю царквы, дзярж. і судовага ладу Польшчы і ВКЛ.

*Тв.*: Początki prawa patronatu w Polsce. Lwów, 1889; Zjazd łęczycki w r. 1180. Lwów, 1889; Organizacja Kościoła w Polsce do połowy wieku XII. Lwów, 1890 (3 wyd. Poznań, 1962; змешчана бібліяграфія прац А.); O powstaniu dziesięciny swobodnej. Warszawa, 1891; Sprawa Muskaty. Kraków, 1893; Pierwszy spór kościelno-polityczny w Polsce. Kraków, 1895; Powstanie organizacji Kościoła łacińskiego na Rusi. T. 1. Lwów, 1904; Polska a chrzest Litwy// Polska i Litwa w dziejowym stosunku. Warszawa etc., 1914.

*Літ.*: Księga pamiątkowa ku czci Władysława Abrahama. T. 1—2. Lwów, 1930—31; S a w i c k i J. Władysław A. (1860—1941) // Kwartalnik historyczny. 1946. R. 53.

***Валерый Пазднякоў.***

**абраз**, ікона, у хрысціянскай рэлігіі (праваслаўе, каталіцтва і уніяцтва) выявы Ісуса Хрыста, Божай Маці, святых на драўлянай дошцы, палатне, камені, якія з'яўляюцца аб'ектам рэлігійнага ўшанавання. Вядомы з 2 ст. н.э. Найб. стараж. А., што захаваліся, датуюцца 5—6 ст. і паходзяць з Пярэдняй Азіі. Культ А. як абавязковага элемента храма афіцыйна прыняты на 7-м Усяленскім саборы (786—787, Канстанцінопаль). Паводле хрысц. падання, першаўзорам вобраза Хрыста з'явіўся адбітак яго твару на ўбрусе, а першыя выявы Божай Маці выкананы евангелістам Лукою. А. асабліва былі пашыраны ў Візантыі, Егіпце, Эфіопіі, паўднёва-слав. краінах, Грузіі. Для А. характэрны іканаграфічны канон, які вытрымліваецца стагоддзямі. Пад уплывам Візантыі ўзнік старажытнарускі А., класічныя ўзоры яго адносяць да канца 14—15 ст. (А. Рублёў, Феафан Грэк). На Беларусі А. з'явіўся, відаць, у канцы 10 ст. ў Полацку і Тураве. Першыя А. прывозілі з Візантыі, напр., Ефрасіння Полацкая падаравала мужчынскаму манастыру ў Полацку абраз «Маці Божая Адзігітрыя Эфеская», які яна атрымала ад імператара Мануіла Камніна. Беларускія А. 11—15 ст. ствараліся ў сферы правасл. візант.-балканскага ўплыву (берасцейская «Маці Божая Замілаванне», менскае «Успенне», 15 ст.). Фарміраванне самабытнай бел. школы іканапісу адбылося ў 16 ст. («Параскева» са Случчыны, «Спас» з Быценя). Найб. яркія творы належаць да 1-й палавіны 17 ст. (група маларыцкіх А. 1648; «Нараджэнне Марыі» Пятра Яўсеевіча з Галынца, 1649; «Успенне» з в. Олтуш, 1650, і інш.). Для іх характэрна спалучэнне сімвалізму і кананічнасці сярэдневяковага мастацтва з натуральнасцю персанажаў і асяроддзя, характарнасцю вобразаў, элементамі навакольнай рэчаіснасці, засвоенымі з еўрап. Адраджэння. У 17—18 ст. выяўляюцца рэгіянальныя асаблівасці ў А. Зах. Палесся, Падняпроўя, Падзвіння, Меншчыны, звязаныя з цэнтрамі іканапісу (Берасце, Вільня, Віцебск, Пінск, Магілёў, Менск, Полацк). А. маляваліся на дошках (да 16 ст. ўключна з каўчэгамі) на клеемелавым грунце (ляўкасе) яечнай тэмперай, пазней у спалучэнні з алейнымі фарбамі. Фон гладкі, пазалочаны, з канца 16 ст. аздабляўся рэльефным раслінным арнаментам. З сярэдзіны 18 ст. пашыраецца А. на палатне. Асаблівую галіну бел. іканапісу ўтвараюць алтарныя А. касцёлаў з рысамі готыкі, рэнесансу, барока. Характэрнай аздобай А. былі абклады, накладныя чаканныя металічныя рызы («сукенкі», «шаты»). Разам са звычайным (жывапісным) існуюць А. рэльефныя, ляпныя і разныя. Самастойны (арыгінальны) бел. А. знік адначасова са скасаваннем у 1839 уніяцтва.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Абрамовічы**, А б р а г а м о в і ч ы, шляхецкі род герба «Любіч» зменены, або «Ястрабец» зменены. Родапачынальнік Абрам Мацкевіч, дзяржаўца відзаўскі, у пач. 16 ст. атрымаў ад віленскага біскупа Яна пацвярджэнне на 4 валокі зямлі ў Дуброўне каля Ліды. Меў сыноў Станіслава і, магчыма, Якуба і Юзафа Ждана. У мужчынскай лініі род згас у 1867. Найб. вядомыя:

Я н (?—19.4.1602), сын Станіслава. Віленскі войскі ў 1570 і намеснік (падваявода) у 1572—89, прэзідэнт дорпацкі ў

1589—1601, ваявода менскі ў 1593—96 і смаленскі з 1596; староста лідскі з 1579 і вендэнскі з 1589. Выхоўваўся пры двары М.Радзівіла Рудога. Падтрымліваў кальвінісцкую галіну Радзівілаў і іх апазіцыйную да Польшчы палітыку. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*. На сойме 1585 дамагаўся ўключэння Інфлянтаў у склад ВКЛ. Адзін з кіраўнікоў кальвіністаў ВКЛ, але быў цесна звязаны і з праваслаўнымі, з кн. К.К.Астрожскім. Яго жонка, Дарота з Валовічаў, была апякункай віленскага правасл. Святадухава брацтва. Удзельнічаў у дыскусіях з езуітамі ў Вільні ў 1585 і 1599, у дысідэнцкіх з'ездах у Торуні ў 1595 і ў Вільні ў 1599. У сваім маёнтку Варняны ў Віленскім пав. (валодаў з 1587) збудаваў кальвінскі збор, школу і шпіталь. Напісаў кн. «Меркаванне літвіна пра куплю танней збожжа і больш дарагі продаж» («Zdanie Litwina o kupczy taniej zboża a drogiej sprzedaży», 1595). Апякаў А.*Волана* і Я.*Радвана*, якога схіліў да напісання паэмы «Радзівіліяда». Сваім коштам выдаў кальвінісцкі катэхізіс віленскага прапаведніка С.*Суроўскага* (Вільня, 1598). Валодаў маёнткамі Дубнікі і Язаў у Віленскім пав., Свіраны, Сураж і Кабыльнік у Ашмянскім пав.

М і к а л а й (?—люты 1651), сын Яна. У 1603 аддадзены на выхаванне на двор біржанскіх Радзівілаў. Каралеўскі палкоўнік, генерал артылерыі ВКЛ з 1634, адначасова чашнік ВКЛ у 1638—40, кашталян мсціслаўскі ў 1640—43, ваявода мсціслаўскі ў 1643—47 і троцкі з 1647; староста старадубскі ў 1636—47, мядзельскі і курклійскі; неаднаразова выбіраўся пасламі на соймы і дэпутатам Трыбунала ВКЛ. У 1-й пал. 1620-х г. ваяваў супраць шведаў у Курляндыі і Інфлянтах у войску К.Радзівіла, дзе выконваў абавязкі старшага над гарматай. У 1626—27 ваяваў супраць шведаў на Памор'і і ў Прусіі. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* са студз. 1633 камандаваў палком пяхоты групоўкі Радзівіла, а з 1634 старшы над гарматай (з 1640 называўся генерал артылерыі ВКЛ), камандзір калоны ў маршы на г. Белы. Камісар пры заключэнні *Палянаўскага міру 1634*. У 1646 прызначаны камісарам на перагаворах з Масквой і па даручэнні караля перадаў Расіі Трубчэўскую вол., за што трыбунальскім судом прыгавораны да штрафу 60 тыс. злотых і смяротнага пакарання. У 1648 прызначаны камісарам для перагавораў са Швецыяй. Адзін з кіраўнікоў кальвіністаў ВКЛ. У 1631 падараваў Літ. сіноду двор у Слуцку пад канвікт для вучняў гімназіі. Старшыня правінцыяльнага сінода 1644. Акрамя бацькавых маёнткаў меў Мглін і Дрокаў у Старадубскім пав., Лебедзева ў Ашмянскім пав., Холмеч у Рэчыцкім пав., маёнткі ў Кіеўскім ваяв.

С а м у э л ь А н д р э й (1617—63), сын Мікалая. Каралеўскі палкоўнік, староста старадубскі з 1647. У 1637—38 вучыўся ў Лейдэнскім ун-це. У 1654 перайшоў у каталіцтва і зачыніў кальвінскі збор у Варнянах. Меў маёнткі ў Кіеўскім ваяв., Лідскім, Вількамірскім, Ашмянскім, Аршанскім, Навагародскім, Мазырскім, Старадубскім і Пінскім пав.

А н д р э й (?—вер. 1763), сын Самуэля. Харужы, пасля паручнік пяцігорскі, віленскі цівун, стольнік з 1736 і пісар земскі з 1748, кашталян берасцейскі з 1757; пасол на сойм 1754, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1748. З маладосці звязаны з М.К.Радзівілам Рыбанькай, адстойваў яго інтарэсы на віленскіх сойміках, у Трыбунале і сойме. Трымаў у заставе радзівілаўскія маёнткі Жупраны і Беразавец, у дзяржаве — Цітавяны і Новае Места.

Е ж ы (?—1767), сын Самуэля, брат Андрэя. Харужы пяцігорскі, віленскі падчашы ў 1746—63, пісар гродскі ў 1746—48, суддзя гродскі ў 1748—50, падваявода ў 1750—63; староста старадубскі з 1763; пасол на сойм 1758, віцэ-маршалак Трыбунала ВКЛ 1763. З маладосці звязаны з Радзівілам Рыбанькай, ад якога атрымаў пасаду падваяводы. Трымаў у заставе радзівілаўскія маёнткі Новае Места, Суботнікі і Цітавяны.

А д а м (23.8.1710—76), сын Самуэля, брат Андрэя і Ежы. З 1726 езуіт. З 1743 выкладаў у езуіцкіх навуч. установах у Вільні, Навагародку (1748—49), Варшаве. У 1752 узначаліў канвікт у Вільні, які ператварыў у шляхецкі калегіум (гл. *Віленскі езуіцкі «Калегіум нобіліум»*), быў яго першым рэктарам. Рэктар калегіумаў у Нясвіжы (1758—63 і 1770—73), Полацку (1763—66) і Менску (1766—70). Шмат намаганняў прыклаў да адбудовы касцёлаў і калегіумаў. Выдаў кн. «Нядзельныя казанні» («Kazania niedzielne», Вільня, 1753), дзе ўзняў важныя праблемы грамадскага жыцця, асуджаў бязмежную эксплуатацыю, заклікаў да дабрачыннасці на карысць бедных.

*Літ.*: Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973. С. 171—172; C i e c h a n o w i e c k i A., R a c h u b a A. Rys genealogiczny rodziny Abramowiczów na Wornianach// Przegląd Wschodni. 1992/93. T. 2. Z. 3 (7).

***Валерый Пазднякоў.***

**Абросімаў** Пётр, разьбяр па дрэве і цясляр канца 17 ст. Мяркуецца, вывезены з Беларусі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Працаваў у Палаце разьбярных і сталярных спраў Маскоўскага Крамля. У 1680 пераведзены ў Аляксандраву Слабаду, дзе знаходзіўся «новы пацешны двор» цара. Выконваў асабістыя заказы цара. У 1682—83 кіраваў арцеллю бел. разьбяроў, якая разам з арцеллю К.*Міхайлава* выконвала разныя іканастасы для Новадзявочага і Данскога манастыроў у Маскве. У 1683 «разам са таварышчы» рабіў крэслы, кіботы, шуфляды для харомаў царыцы і вял. княгіні Марфы Мацвееўны, кіботы да абраза «Успенне Прасвятой Багародзіцы» для харомаў вял. княгіні Кацярыны Аляксееўны. З 1684 рабіў шкатулкі і падносныя сталы. У 1686 удзельнічаў у стварэнні разнога іканастаса царквы Пятра і Паўла ў Маскве.

***Мая Яніцкая.***

**Абрынскі** Крыштоф Антоній (?—да 13.2.1665), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З шляхецкага роду герба «Харытон», сын Андрэя, навагародскага земскага суддзі. Каралеўскі сакратар, пісар дэкрэтавы ВКЛ у 1650—60, падстолі ваўкавыскі ў 1653, ротмістр казацкай харугвы ў войску ВКЛ у 1653—54, падкаморы навагародскі прыкладна з 1655; пасол на соймы 1648, 1652, 1655, 1659, 1661, 1662. Вучыўся ў Нясвіжскім езуіцкім калегіуме (каля 1637), разам з Ж.К.*Радзівілам* выехаў у Італію, дзе запісаўся на юрыд. ф-т Падуанскага ун-та (1641). Вярнуўся, відаць, у 1642. У 1651 сакратар пасольства П.К.*Абуховіча* ў Маскву. Удзельнічаў у падрыхтоўцы *Аліўскага міру 1660* са Швецыяй. Валодаў маёнткамі Бярдова (Бярдоўка) і Ятра ў Навагародскім пав.

***Валерый Пазднякоў.***

**Абуховіч** Піліп Казімір (каля 1600—6.9.1656), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, пісьменнік-мемуарыст. З роду *Абуховічаў*. Войскі мазырскі ў 1625—49, пісар вялікі ВКЛ у 1649—53, ваявода віцебскі ў 1653 і смаленскі з 1653; староста гожскі, цырынскі і бельскі; пасол амаль на ўсе соймы 1632—1653 (маршалак элекцый-



нага сойма 1648), дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1632. Вучыўся ў Замойскай акадэміі, дзе авалодаў мастацтвам красамоўства. Пасля пры двары канцлера ВКЛ Л.І.Сапегі. Вайсковую службу пачаў як каралеўскі ротмістр пад камандаваннем Сапегі, з 1640-х г. палкоўнік войска ВКЛ. Падтрымліваў палітыку Яна II Казіміра Вазы. У 1651 як вял. пасол ездзіў у Маскву, каб заключыць саюз з царом Аляксеем Міхайлавічам супраць татараў. У 1653 удзельнічаў у Жванецкай аперацыі супраць укр. казакоў, з-пад Камянца быў пасланы пад Сучаву на дапамогу малдаўскаму гаспадару Васілю Лупу, які ваяваў з казакамі Ц.Хмяльніцкага. Напярэдадні *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* прызначаны ваяводам смаленскім. За кароткі тэрмін умацаваў муры і валы Смаленска, назапасіў харч і ваенныя прыпасы. Але гэтага аказалася недастаткова, каб доўгі час абараняць горад, таму 28.9.1654 А. здаў Смаленск на ганаровых умовах і быў адпушчаны. Віну за няўдалую абарону горада А. усклаў на здраднікаў са шляхты і наёмнікаў-немцаў, якім не плацілі заробку (яны паказалі праціўніку слабыя месцы абароны і пазней прысягнулі цару). Абвінавачаны ў здрадзе грамадскай думкай (у т.л. Ц.Камунякам у сатырычным *«Лісце да Абуховіча»*), А. не быў дапушчаны да працы ў сойме 1655, але яму даручылі камандаваць атрадамі ВКЛ, што вызвалялі ад шведаў Варшаву ў 1656. Памёр ад хваробы і пахаваны ў Навагародскім касцёле езуітаў. Валодаў маёнткам Ліпа ў Навагародскім ваяв. Дзякуючы намаганням сыноў на сойме 1658 А. быў прызнаны невінаватым у здачы Смаленска. Пакінуў дыярыуш за 1630—54 (да здачы Смаленска) і запіскі пра абарону горада, якія павінны былі даказаць яго невінаватасць. Асобна апісаў элекцыю караля ў 1632. «Дыярыуш» А. (выдадзены ў 1859 М.Балінскім, у 2003 Г.Люлевічам і А.Рахубам) даволі сціслы, але пададзеныя ў ім факты важныя і цікавыя. Адзначаў як важныя гіст. падзеі, так і здарэнні з паўсядзённага жыцця (напр., метэаралагічныя звесткі).

*Тв.*: Dyjaryjusz Kazimierza Filipa Obuchowicza, wojewody smoleńskiego i marszałka Koła Rycerskiego // Pamiętniki historyczne do wyjaśnienia spraw publicznych w Polsce w XVII wieku posługujące. Wilno, 1859; Pamiętniki Filipa, Michała i Teodora Obuchowiczów (1630—1707). Warszawa, 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**Абуховічы**, шляхецкі род уласнага герба «Абуховіч» («Ключ раздвоены», зменены «Ясенчык»). Паходзілі з Валыні, адкуль у 16 ст. перасяліліся ў Мазырскі, а пасля і ў Навагародскі пав. Першы вядомы прадстаўнік роду Івашка ставіў у войска ВКЛ у 1528 аднаго конніка. Найб. вядомыя:

Піліп Казімір (каля 1600—6.9.1656), сын Фёдара, суддзі земскага мазырскага, гл. П.К.*Абуховіч*.

Міхал Леў (каля 1630—16.10.1668), старэйшы сын Піліпа Казіміра. Падкаморы мазырскі прыкладна з 1662 і навагародскі з 1665, стражнік ВКЛ у 1668; стараста гожаўскі, цырынскі і пераломскі; пасол на соймы 1664—65 і 1665. У 1645 вучыўся ў Віленскай акадэміі. Пасля пакаёвы дваранін караля Яна II Казіміра Вазы. Дыпламатычны ганец у Маскву ў 1650 і двойчы ў 1653 . У 1651 суправаджаў караля ў Берасцечкаўскай выправе, у 1656 удзельнічаў у баях са шведамі за Варшаву, у ходзе якіх пасля смерці бацькі стаў камандзірам яго палка. У 1660 ваяваў на Берасцейшчыне з атрадамі маскоўскага ваяводы І.А.Хаванскага. Быў узяты ў палон і адпраўлены ў Маскву, у 1662 абменены ў Смаленску на маскоўскіх военачальнікаў. У 1664 удзельнічаў са сваім палком у выправе на Северскую зямлю. Валодаў маёнткамі ў Смаленскім ваяв., Ятрай у Навагародскім ваяв., Буховічамі ў Кобрынскай эканоміі, Суражам, Казянамі і Тарапчанамі ў Віцебскім ваяв., Ясудавам і Свяцкам у Гарадзенскім пав. Пахаваны ў Навагародскім касцёле езуітаў. Пакінуў 2 сціслыя дыярыушы: за 1660—62 (пра знаходжанне ў Маскве) і за 1663—65.

Тэадор Геранім (1643—14.4.1707), сын Піліпа Казіміра. Навагародскі падкаморы ў 1693—1700 і кашталян з 1700; стараста цырынскі з 1668; пасол на соймы 1673, 1678, 1693, 1696. У 1657—69 дваранін караля Яна II Казіміра Вазы. У 1664 суправаджаў караля ў ваеннай выправе ў рас. землі за Дняпро. Пасля адрачэння Яна II Казіміра ад трона (1669) суправаджаў яго ў Францыі, у 1670 вярнуўся. Як ротмістр пяцігорскай харугвы ўдзельнічаў у *Хацінскай бітве 1673*. У 1675 ажыццявіў паломніцтва ў Рым. Валодаў маёнткамі Ліпа і Дарагава ў Навагародскім ваяв., Гарбавічы ў Мазырскім пав. Пахаваны ў Навагародскім касцёле езуітаў. Пакінуў сціслыя мемуары, у якіх даў звесткі пра найважнейшыя падзеі ў Рэчы Паспалітай і сваім жыцці з 1656 да 1700.

Захарыяш (?—1658), сын Фёдара. Канонік смаленскі.

Фёдар Міхал (?—1662), сын Фёдара. Падкаморы мазырскі з 1646, паручнік гусарскай харугвы, пасол на сойм 1648.

Юзаф (?—пасля 12.4.1798), сын Яна. Навагародскі падваявода, падстолі з 1770, рэгент гродскі навагародскі ў 1774—77. Валодаў маёнткамі Ліпа, Сваятычы і Круговічы ў Навагародскім пав.

Міхал (пасля 1760—1826), сын Юзафа. Кашталян менскі з 1792, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1786. Прыхільна сустрэў Канстытуцыю 3 мая 1791. У час паўстання 1794 увайшоў у склад Найвышэйшай літоўскай рады як дэлегат ад Случарэцкага пав. Меў маёнткі Сваятычы, Адахаўшчына, Сноў Навагародскага пав., трымаў у заставе радзівілаўскія маёнткі Аношкі, Тарэйкі, Свержань, Тулёнка, Гарадзея.

Ксаверый (1766—пасля 1823), сын Юзафа. Навагародскі падваявода ў 1789—92, суддзя земскі ў 1792—97, прэзідэнт 2-га дэпартамента Мінскага гал. суда з 1808. У 1812 член утворанага Напалеонам часовага ўрада ВКЛ. Валодаў маёнткамі Ліпа, Круговічы, Ганцавічы ў Навагародскім пав. і інш.

*Літ.*: Рыбчонак С., Свяжынскі У. Абуховічы гербу Ключ раздвоены // Спадчына. 1998. № 6; Pamiętniki Filipa, Michała i Teodora Obuchowiczów (1630—1707). Warszawa, 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**абшчына**, гл. *Грамада*.

**абывацелі**, назва паўнапраўных грамадзян у прававых актах ВКЛ у 16 ст. У 17—18 ст. А. называлі шляхціцаў Рэчы Паспалітай.

**абыход**, паводле *«Уставы на валокі» 1557*, мяжа вакол зямельнага ўчастка (ворыва, лесу, маёнтка і інш.). А. называлі таксама акт, у якім вызначалася гэта мяжа.

**Абэцэдарскі** (Абецадарскі) Лаўрэнцій Сямёнавіч (12.7.1916, г. Горкі Магілёўскай вобл.—6.7.1975), бел. гісторык. Д-р гіст. н., праф. (1966). Чл.—кар. АПН СССР (1968). Скончыў БДУ (1946), працаваў там выкладчыкам, заг. кафедры гісторыі СССР (1950—58), гісторыі БССР (з 1958). Вывучаў рас.-бел. адносіны ў 2-й пал. 16—17 ст., нац.-вызв. і антыфеад. барацьбу ў Беларусі ў 17 ст. Пачатковы перыяд гісторыі Беларусі разглядаў як агульны этап

гісторыі стараж. Русі, асобныя факты і падзеі ацэньваў з вульгарна-сацыялагічных пазіцый. Сабраў вялікі матэрыял пра перасяленне беларусаў у Маскву і Замаскварэцкі край у 2-й пал. 17 ст., якое не заўсёды абгрунтавана лічыў добраахвотным. Звярнуў увагу на значны бел. элемент у развіцці культуры Масквы ў 2-й пал. 17 ст. Прыхільнік унітарнай канцэпцыі аб'яднання ўсходнеславянскіх народаў вакол Масквы і Маскоўскай дзяржавы. Адзін з аўтараў «Гісторыі БССР» (т. 1—2, 1954—61), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1—5, 1972—75). Удзельнічаў у выданні зборніка дакументаў *«Руска-беларускія сувязі»*.

*Тв.*: Белорусы в Москве XVII в.: Из истории рус.-бел. связей. Мн., 1957; Белоруссия и Россия: Очерки рус-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978.

**Авіжоніс** (Avižonis) Канстанцінас [16(29).1.1909, Жагарэ, Іёнішскі р-н, Літва—20.4.1969], літоўскі гісторык. Д-р філасофіі (1932), праф. (1956). Вучыўся ў Каўнаскім ун-це (1927—29, 1933), скончыў Берлінскі ун-т (1932). З 1939 працаваў у Ін-це літуаністыкі, з 1940 выкладчык Вільнюскага ун-та. З 1944 у Зах. Германіі, выкладчык Фрайбургскага і Прыбалтыйскага ун-таў. З 1949 у ЗША, выкладчык Элонскага каледжа (Паўн. Караліна) і Канзаскага ун-та. Вывучаў гісторыю шляхты, права, гаспадаркі і культуры ВКЛ. У доктарскай дысертацыі «Утварэнне і развіццё літоўскай шляхты да літоўска-польскай уніі 1385» («Die Entstehung und Entwicklung des litauischen Adels bis zur litauisch-polnischen Union 1385», Берлін, 1932) упершыню дасканала вывучыў гісторыю шляхты ВКЛ 13—14 ст. Даказаў утварэнне шляхецкага саслоўя ў Літве да уніі з Польшчай; неабгрунтавана лічыў велікакняжацкую ўладу 13—14 ст. абсалютнай. У сваёй асн. працы «Шляхта ў дзяржаўным жыцці Літвы ў часы Вазаў» («Bajorai valstybiniame Lietuvos gyvenime Vazų laikais», Каўнас, 1940) даследаваў паліт., эканам. і ваен. ролю шляхты ў развіцці ВКЛ, прычыны ўпадку ВКЛ ў 1-й пал. 17 ст. Паказаў, што дзяржаўнасць ВКЛ захавалася і пасля Люблінскай уніі 1569. У б-цы Чартарыйскіх у Кракаве знайшоў поўны тэкст успамінаў канцлера ВКЛ А.С.Радзівіла. У 1975—94 жонка А. выдала 4 тамы яго «Выбраных твораў», у якія акрамя ранейшых публікацый увайшлі неапубл. працы «Статуты Літвы»,

**«Авізы Гродзеньске».**

Awizy Grodźinſkie, Item z Brześćia, ze Lwowa, z Krakowa, Die 13. Decembris, A. D. 1698.

DO Grodna przyſtał Naiáśnieyſzy Krol I. M. z Brześćia vmyślnego, ktory iesſcze 21 przeſzłego ſtánął był w Grodnie, inuitando wſzytkich II PP. Senatorow tám obecznych, ná Consilium: iákoz I. W. I. M. Pan Kásztellan Wileński Hetman Polny W. X. Lit: záraz z Grodná do Krolá I. M. wyiezdzał; ále inni Ich Mość pozoſtáć ſię mieli, áby koniecznie támo dotrzeć tey vgody mogli, álbowiem vtraq Partes Diſſentientes wielce ſobie tego życzyły. I. W. I. M. X. Biſkup Wilenſki 21. przeſzłego wyiezdzał z Grodná do Obozu Poſpolitego Ruſzenia cum benedictione Paſtorali, & perſuaſione zgody, gdźie też náydowáć ſię miał I. W. I. M. P. Stároſtá Zmudzki. Interim Naiáśnieyſzy Krol I. M. pragnący vt bene ſit wſwym Kroleſtwie, ſtárał ſię wſzeláknim ſpoſobem o vſpokoienie tych rzeczy, y piſał liſt do I. W. I. M. Páná Podſkárbiego Wielkiego W. X. Lit. w ktorym zachęca do tey zgody I. M. y Rodzonego ſwego I. W. I. M. P. Woiewody Wilenſkiego Hetmáná Wielkiego W. X. Lit: áby dáiey nic hoſtiliter nieczynili, ále zá powagą Máieſtatu Krolewſkiego, chćieli ſię we wſzytkim v-

«Гісторыя прыгонніцтва ў Літве», «Слоўнік тэрмінаў гісторыі Літвы» (т. 2), «Гісторыя Літвы. XVII ст.» (т. 3), змешчаны артыкулы па гісторыі Літвы, напісаныя для выдадзенай у Бостане 35-томнай усеаг. «Літоўскай энцыклапедыі», 1953—66 (т. 4).

*Тв.*: Lietuvių kilimo iš romėnų teorija XV ir XVI a. Kaunas, 1939; Stanislovo Albrechto Radvilo «Memoriale» // Lietuvos praeitis. Kaunas, 1940. T. 1, sąs. 1; Švietimas Lietuvoje XVII-jo amžiaus pirmoje pusėje // Lietuvos praeitis. Vilnius; Kaunas, 1941. T. 1, sąs. 2; Rinktiniai raštai. T. 1—4. Roma; Vilnius, 1975—94.

*Літ.*: Tyla A. Konstantinas Avižonis (1909—1969) // Mūsų praeitis. Vilnius, 1990. Kn. 1.

*Томас Баранаўскас.*

**«Авізы Гродзеньске»** («Awizy Grodzieńskie», «Гарадзенскія весці»), першы інфармацыйны бюлетэнь у ВКЛ і на Беларусі. Пачаў выдавацца з 1678 у час пасяджэнняў у Гародні соймаў Рэчы Паспалітай. Выходзіў на польск. мове. У Ягелонскай б-цы ў Кракаве захаваўся 1 нумар «А.г.» за 13.12.1698 (фармат 13,5 х 20 см, 1 аркуш, друк двухбаковы). У ім паведамляецца пра падзеі *феадальнай вайны 1697—1702* у ВКЛ; пра тое, што кароль адправіў з Берасця ў Гародню свайго ўпаўнаважанага, які 21.11.1698 склікаў сенатараў на раду, дзе яны абмяркоўвалі пазіцыю магнацкага роду Сапегаў, якія супрацьпаставілі сябе інш. шляхце ВКЛ; што кароль праз сваіх пасланцаў і ўплывовых асоб жадаў загладзіць гэту справу. Паведамляецца таксама, што ў час паспалітага рушэння шляхты віцебскі кашталян М.Коцел стаў з войскам пад мяст. Жалудок, а харужы ВКЛ Р.А.Агінскі — пад мяст. Стаклішкі; супраць яго былі гатовы выступіць некалькі харугваў з Троцкага ваяв.; што 21.11.1698 арганізавана генеральнае кола войска ВКЛ, з якога пасланы дэлегаты да караля, каб засведчыць сваё вернападданства. Паведамляецца, што ням. войска (саксонскія атрады караля) падышло да Гародні і затрымаецца там на зіму, выкладзены інш. падзеі. Невядома, колькі нумароў «А.г.» выйшла ў свет.

*Яўген Скрабоцкі.*

**агароднікі**, сяляне, якіх сялілі на невял. дзялянках зямлі і абавязвалі выконваць пэўныя павіннасці. Паводле *«Уставы на валокі» 1557* А. давалі па 3 маргі (2,13 га) зямлі і ссялялі ў вёскі па 10—20 двароў паблізу *фальваркаў*. За надзелы А. адпрацоўвалі на землеўладальніка 1 дзень у тыдзень без каня, а іх жонкі — 6 дзён за лета. У час *валочнай памеры* ў катэгорыю А. пераводзілі *чэлядзь нявольную*.

*Літ.*: Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Похилевич Д.Л. Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украине в XVI—XVII вв. // Материалы по истории земледелия СССР. М., 1952. Сб. 1.

**Агіевіч** Уладзімір Уладзіміравіч (н. 25.10.1938, г. Слуцк Мінскай вобл.), бел. філосаф. Канд. філас. н. (1987). Скончыў БДУ (1960) і Мінскі пед. ін-т замежных моў (1967). Працаваў настаўнікам. З 1970 вучоны сакратар Аддз. грамадскіх навук АН Беларусі. З 1980 у Ін-це філасофіі і права Нац. АН Беларусі. Навук. працы па гісторыі філас. і грамадскай думкі Беларусі, праблемах развіцця духоўнай культуры, месца і ролі бел. культуры і навукі ў сучас. гісторыі. Даследуе жыццё і кнігавыдавецкую дзейнасць Ф.Скарыны, змест і сімвалагічны сэнс яго творчай спадчыны.

*Літ.*: «...Опыты сердца, мысли и пера»: Эволюция философских взглядов А.В.Луначарского до 1908 года. Мн., 1991; Сімволіка гравюры Скарыны. Мн., 1999; Імя і справа Скарыны: У чыых руках спадчына. Мн., 2002; Скорина неизвестный... или непонятный // Нёман. 2003. № 4—5.

**Агінскі** Міхал Казімір (1730—31.1.1800), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, кампазітар, паэт. З роду князёў *Агінскіх*. Чашнік ВКЛ у 1744—48, пісар польны ВКЛ у 1748—64, ген.-маёр войска ВКЛ (1748), ваявода віленскі ў 1764—68, гетман вялікі ВКЛ у 1768—93. У 1754—61 знаходзіўся ў Францыі, служыў



Міхал Казімір **Агінскі**.
Партрэт Г.Р.Лісеўскай. 1755.

у войску. Ажаніўшыся ў 1761 з Аляксандраю, дачкою М.Чартарыйскага, атрымаў Слонімскае старыства. Жыў у Пецярбургу, ад імператрыцы Кацярыны II атрымаў ордэн св. Андрэя Першазванага, быў адным з кандыдатаў Кацярыны II на трон Рэчы Паспалітай. У 1771 перайшоў на бок *Барскай канфедэрацыі*, але не здолеў са сваім войскам заняць Нясвіж і Слуцк. Разбіты ў *Сталавіцкай бітве 1771* А.В.Суворавым, пасля чаго эмігрываў, а яго маёнткі ва ўсх. Беларусі, ужо далучанай да Рас. імперыі, былі канфіскаваны. Атрымаўшы амністыю і секвестраваныя маёнткі, у 1775 вярнуўся ў Слонім, дзе заснаваў *Слонімскія мануфактуры, Слонімскую друкарню, Слонімскі тэатр Агінскага, Слонімскую капэлу Агінскага, Слонімскую балетную школу*. Па яго ініцыятыве і на яго сродкі быў пабудаваны *Агінскі канал*. Выявіў здольнасці музыканта-віртуоза. Аўтар паланэзаў, опер, песень на ўласныя вершы. Выдаў паэтычныя зборнікі «Кніжка ў вялікую актаву» («Książka in octavo maiori», Львоў, 1781), «Гістарычныя і маральныя аповесці» («Powieści historyczne i moralne», Варшава, 1782), «Байкі і не-байкі» («Bajki i nie bajki». Т. 1—2. Варшава, 1788). У 1791 амаль усе свае маёнткі перадаў далёкаму сваяку Міхалу Клеафасу *Агінскаму* з умоваю, што той заплаціць за яго больш за 8 млн. злотых доўгу, і адышоў ад паліт. дзейнасці. Пасля перамогі *Таргавіцкай канфедэрацыі* ў 1793 адмовіўся ад урада вял. гетмана. Прынёс прысягу Кацярыне II у 1795 і вярнуў ад Міхала Клеафаса свае маёнткі. Апошнія гады жыцця правёў у Варшаве, дзе і памёр.

*Літ.*: Дадиомова О.В. Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII веке. Мн., 1992; Яе ж. Музычная культура Беларусі XVIII стагоддзя: Гіст.-тэарэтычнае даследаванне. Мн., 2002; Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме: Пер. з ням. Мн., 1993; Грыцкевіч А. Міхал Казімір Агінскі (1730—1800) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2003. Вып. 2.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Агінскі** Міхал Клеафас (7.10.1765, г. Гузаў Раўскага ваяв., Польшча—15.10.1833), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ, кампазітар. З роду князёў *Агінскіх*. Атрымаў добрую дамашнюю адукацыю. Пасол на сойм 1786, чл. Скарбовай камісіі ВКЛ, мечнік ВКЛ у 1789—93, надзвычайны пасол у Галандыі ў 1790—91, выконваў дыпламат. місію ў Лондане. У 1791 у Магілёве прысягнуў рас. імператрыцы Кацярыне II і такім чынам захаваў маёнткі ва ўсх. Беларусі. Скептычна прыняў *Канстытуцыю 3 мая 1791*. Пасля перамогі ў 1793 *Таргавіцкай канфедэрацыі* прысягнуў ёй і атрымаў канфіскаваныя раней маёнткі. У 1793—94 вял. падскарбі ВКЛ. У час *паўстання 1794* увайшоў у склад *Найвышэйшай літоўскай рады*. Сфарміраваў і фінансаваў батальён стралкоў, камандаваў ім у некалькіх бітвах. У чэрв. 1794 двойчы з атрадам стралкоў і 200 коннікамі спрабаваў прабіцца ў Мінскую губ., каб падняць там паўстанне. У жн. 1794 зрабіў рэйд да Дынабурга (Даўгаўпілса). Пасля задушэння паўстання праз Галіцыю выехаў у Аўстрыю. Жыў у Вене, Венецыі, Стамбуле, Парыжы. У 1802 вярнуўся на Беларусь, дзе яму вярнулі секвестраваныя маёнткі. Жыў у маёнтку Залессе каля Смаргоні. У 1810 атрымаў пасаду сенатара, чын тайнага саветніка, узнагароджаны ордэнамі св. Уладзіміра і св. Аляксандра Неўскага. Не раз сустракаўся з імператарам Аляксандрам I у Пецярбургу, Вільні, Магілёве і Віцебску, распрацаваў і падаў яму план аднаўлення ВКЛ у складзе Рас. імперыі. У 1823 выехаў з сям'ёй у Італію, жыў у Фларэнцыі, дзе і памёр. Вядомы як кампазітар, аўтар папулярных паланэзаў для фартэпіяна, якія вызначаюцца лірызмам, меладычнасцю, звязаны з народна-песеннымі традыцыямі. Найб. папулярны яго паланэз ля-мінор «Развітанне з Радзімай». Пісаў таксама маршы (у т.л. «Марш паўстанцаў 1794»), вальсы, мазуркі, кадрылі, рамансы. Аўтар аднаактовай оперы «Зеліс і Валькур, або Банапарт у Каіры» («Zélis et Valcour ou Bonaparte au Caire») на ўласны тэкст. У 1826—27 у Парыжы выдаў 4-томныя «Мемуары пра Польшчу і палякаў з 1788 да 1815 г.» («Mémoires ... sur la Pologne et les Polonais depuis 1788 jasqu'a la fin de 1815», 2-е выд. 1833). Напісаў «Лісты пра музыку» («Lettres sur la musique adréssés ą un de ses amis de Florence», 1828). У Маладзечне пастаўлены помнік А.



Міхал Клеафас **Агінскі**.
Партрэт Дж.Грасі.
Канец 18 ст.

*Тв.*: Pamiętniki o Polsce i Polakach od r. 1788 aż do końca r. 1815: Пер. з франц. Т. 1—4. Poznań, 1870—73; Listy o muzyce: Пер. з

франц. Kraków, 1956; Мая біяграфія // Спадчына. 1998. № 5—6; На шляху да «Паўночных Афінаў»... // Культура. 2003. 17—23 мая; Пецярбургская прыступка да Залесся // Культура. 2003. 31 мая—6 чэрв.; Ліст Агінскага сыну Ірэніушу // Рэгіянальная газета. 2003. 4 крас.

*Літ.*: Бэлза И. Михал Клеофас Огиньский. 2 изд. М., 1974; Дадзіёмава В. Міхал Клеафас Агінскі: вехі жыцця і творчасьці // Мастацтва. 1994. № 2; Грыцкевіч А. Памятныя запіскі Міхаіла Клеафаса Агінскага Аляксандру I у 1811 годзе // Адраджэнне: Гіст. альманах. Вып. 1. Мн., 1995; Ліс Я. Палітык Міхал Клеафас Агінскі // Спадчына 1996. № 2; Залуский А. Время и музыка Михала Клеофаса Огинского: Пер. з англ. Мн., 1999; Кляшчонак Т. Міхал Клеафас Агінскі і Беларусь // Беларускі гістарычны часопіс. 2000. № 2; Верамейчык С. Міхал Клеафас Агінскі, 1765—1833: Продкі, жыццё ў Залессі, нашчадкі (спроба храналогіі). Мн., 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Агінскі канал**, Вялікі Пінскі канал, порт Агінскага, канал, што злучыў басейны рэк Дняпро і Нёман праз прыток Прыпяці р. Ясельда і прыток Нёмана р. Шчара і ўключаў у сябе азёры Вулька і Выганашчанскае. Агульная даўжыня канала з азёрамі 54 км, без азёр 48 км. Канал будаваўся па ініцыятыве і на сродкі Міхала Казіміра *Агінскага*, які выкарыстаў ідэю, выказаную М.*Бутрымовічам*. Будаўніцтва пачалося ў 1765, яго падтрымаў Варшаўскі сойм 1768, які прыняў рашэнне ўстанавіць у Віленскім замку статую Агінскага за яго заслугі, дазволіў яму з увядзеннем канала ў дзеянне браць мыта па 8 злотых «з вясла ці ад спіцы» і пастанавіў падараваць яму мяст. Лагішын і в. Мышкаўцы, даходы з якіх ішлі на пабудову і ўтрыманне канала (кошт будоўлі ацэньваўся ў 12 млн. злотых). Пасля ад'езду Агінскага ў эміграцыю з-за ўдзелу ў Барскай канфедэрацыі будаўніцтва канала працягвалася за дзярж. кошт. Акрамя капання і абсталявання канала праводзілася добраўпарадкаванне прылеглых дарог, ачышчаліся рэкі (у т.л. Нёман). У 1775 афіцыйна абвешчаны пачатак сплаву. Канчаткова канал уведзены ў дзеянне ў 1783. Гідратэхнічныя канструкцыі мелі выгляд драўляна-земляных збудаванняў з 10 шлюзамі. Па А.к. ў асноўным рухаліся на шастах і вёслах, хоць па абодвух яго баках былі добраўпарадкаваныя берагавыя палосы для буксіроўкі суднаў (як правіла, гэта рабілася конньмі). Транспарт ішоў па А.к. ў абодва бакі — да Нёмана і да Прыпяці, хоць першы напрамак пераважаў. Канал выкарыстоўваўся пераважна для сплаву лесу і збожжа. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай ён быў абследаваны Ген. штабам Рас. імперыі, праведзена яго рэканструкцыя, якая скончылася ў 1804. У 1-ю сусв. вайну 1914—18 і польска-савецкую вайну 1919—20 быў пашкоджаны, адноўлены ў 1926—28. У Вял. Айч. вайну гідратэхнічныя збудаванні канала былі зноў пашкоджаны. Не былі адноўлены, у сувязі з чым А.к. страціў гасп. значэнне.

***Алесь Доўнар.***

**Агінскія**, княжацкі род уласных гербаў «Агінец» («Брама») і «Агінскі». Сваё паходжанне выводзілі ад Рурыкавічаў (казельская галіна чарнігаўскіх князёў). Паводле інш. версіі, іх родапачынальнік — смаленскі кн. Іван Васілевіч Глушонак, які ў пач. 1480-х г. перайшоў да вял. князя маскоўскага Івана III. Сыны Глушонка, Дзмітрый і Іван, засталіся ў ВКЛ



Герб «Агінскі» роду **Агінскіх**.

і заснавалі роды *Пузынаў* і А. Дзмітрый (упершыню ўпамінаецца ў 1486, памёр у пач. 16 ст.) атрымаў ад вял. князя ВКЛ Аляксандра маёнтак Агінты каля Коўна. Яго сын Багдан Дзмітрыевіч Глушонак (памёр у 1542) у 1510 атрымаў пацвярджэнне правоў на Агінты. Верагодна, ён першы пачаў ужываць прозвішча А. (так у тастаменце 1555 названа яго ўдава). Сыны Багдана Мацвей (памёр у 1564) і Фёдар (памёр у 1575) упершыню згадваюцца ў дакументах 1547 як князі А. з дадаткам да прозвішча «з Казельска». У дзярж. актах ВКЛ А. называюцца князямі з 1547, у каронных метрыцы — з 1628. У 17 ст. род А. падзяліўся на 2 лініі — старэйшую, якая ў 17—пач. 19 ст. ўжывала графскі тытул, і малодшую — браслаўскую, якая страціла княжацкі тытул. Княжацкі тытул старэйшай лініі пацверджаны ў Польшчы ў 1821, у Расіі — у 1868. Былі правасл. веравызнання, у 17 ст. прынялі каталіцтва. Мелі маёнткі Маладзечна, Залессе, Бобр, Бялынічы і інш. Найб. вядомыя:

Багдан Мацвеевіч (?—1625), сын Мацвея Багданавіча. Ротмістр гусарскі, палкоўнік войска ВКЛ, падкаморы троцкі з 1580; пасол на соймы 1607, 1609, 1613, маршалак Трыбунала ВКЛ. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, узяцці Полацка (1579) і Вял. Лук (1580), у падаўленні *Налівайкі паўстання 1595—96*, у *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* (у 1601—02). Выконваў дыпламат. місіі. Удзельнічаў у мірных перагаворах з Расіяй (1582, 1587, 1612, 1613, 1615). Стараста правасл. Віленскага Святадухаўскага брацтва. Уладальнік маёнткаў Агінты, Кроны і Еўе ў Троцкім ваяв. У 1611 арганізаваў *Еўінскую друкарню*. Заснаваў Еўінскі Успенскі манастыр (1619), *Кронскі манастыр*, брацкую школу ў Вільні. Быў жанаты з Раінай Рыгораўнай Валовіч, меў сыноў Яна, Дзмітрыя, Аляксандра і Самуэля Льва, 4 дачок.

Ян Багданавіч (каля 1582—1640), сын Багдана Мацвеевіча. Намеснік барысаўскі ў 1611—20, стараста кармялаўскі ў 1620—31, войт саскі з 1632, цівун троцкі і кашталян мсціслаўскі з 1633; пасол на сойм 1613, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1609, 1617, 1621 (яго маршалак), 1632. Стараста правасл. Віленскага Святадухаўскага брацтва.

Аляксандр (каля 1585—1667), сын Багдана Мацвеевіча. Харужы троцкі ў 1626—36, харужы надворны ВКЛ у 1636—45, ваявода менскі ў 1645—49, кашталян троцкі з 1649; пасол на соймы 1623, 1626, 1632, 1633, 1635, 1643, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1619. Удзельнічаў у *Кірхгольмскай бітве 1605*, бітвах пад Смаленскам у 1611 і 1633, *Хацінскай бітве 1621*. Актыўны дзеяч правасл. Віленскага Святадухаўскага брацтва. У 1612 падпісаў акт фундацыі правасл. шляхты Менскага Петрапаўлаўскага манастыра. Уладальнік шматлікіх маёнткаў, у т.л. Еўя, Місюцян, Мікуліна, Бакштаў. Быў жанаты двойчы: з дачкою В.Шэмета Аляксандрай, ад якой меў сыноў Яна і Багдана (?—1649; харужы надворны ВКЛ з 1645), і з княжной Кацярынай Палубінскай, ад якой меў сына Марцыяна Аляксандра.



Самуэль Леў (каля 1595—1657), сын Багдана Мацвеевіча. Троцкі стольнік з 1620 і цівун з 1633. У 1655 у Вільні разам з сынамі прыняў рас. падданства. Заснаваў *Віцебскі Маркаў Троіцкі манастыр*. Уладальнік Агінтаў, Еўя, Лёзна, Мікуліна. Ад Соф'і Білевіч меў сыноў Шымана Караля і Яна, 4 дачок.

Шыман Кароль (каля 1620—3.7.1694), сын Самуэля Льва. Вучыўся ў Зах. Еўропе, у час вучобы ва ун-це ў Франекеры (Галандыя) выдаў кнігу на лацінскай мове пра паводзіны пры двары (1643), ажаніўся там з Т.Стаакман, якая ў хуткім часе пасля прыезду ў Літву пакінула яго і вярнулася дадому. Падкаморы віцебскі ў 1654—99, мечнік ВКЛ у 1679—87, ваявода мсціслаўскі ў 1685—88. У 1660 паручнік у войску ВКЛ, ваяваў супраць войск маскоўскага цара. У 1661 быў адным з кіраўнікоў канфедэрацыі К.Жэромскага. Прадстаўляў інтарэсы Б.Радзівіла. Чл. правасл. Віленскага Святадухаўскага брацтва. У 1680 перайшоў у каталіцтва. Валодаў Еўем і Лёзнам. У 1690 атрымаў спадчыну стрыечнага брата Марцыяна. У шлюбе з Тэадорай Корсак меў сыноў Багуслава, Марцыяна Міхала, Ежы, 2 дачок, у шлюбе з Тэрэзай Войнай-Ясянецкай — сына Аляксандра.

Ян (Ян Яцак Стафан; каля 1625—24.2.1684), сын Самуэля Льва. Ваўкавыскі харужы з 1650 і маршалак з 1657, падваявода віленскі ў 1661—65, пісар польны ВКЛ у 1669—72, ваявода мсціслаўскі ў 1672—82, ваявода полацкі з 1682, адначасова гетман польны ВКЛ з 1683; пасол на соймы 1658, 1667, 1668, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1654. У 1655 перайшоў на бок цара Аляксея Міхайлавіча, з 1656 зноў у войску ВКЛ, удзельнічаў у бітвах супраць шведаў і войск цара. Ваяваў супраць туркаў і крымскіх татараў, удзельнік Венскай кампаніі 1683. Пераходзіў з адных магнацкіх груповак у іншыя са значнай выгадай для сябе. Валодаў маёнткамі Агінты, Мікулін, Бакшты, Крапіўніца і інш. Ад Ганны Сямашкі (шлюб у 1645) меў сыноў Мікалая Францішка, Рыгора Антонія, Льва Казіміра і 3 дачок, ад Яны Тэадоры Нарушэвіч (шлюб у 1660) — сыноў Аляксандра, Казіміра Дамініка, Марцыяна Антонія (?—1703; кашталян мсціслаўскі ў 1703).

Марцыян Аляксандр (1632—26.1.1690), сын Аляксандра. Вучыўся ў Кракаве і Лейдэне. З 1651 служыў у войску, палкоўнік, троцкі стольнік з 1647 і харужы з 1654, чашнік ВКЛ у 1658—59, падстолі ВКЛ у 1659—61, стольнік ВКЛ у 1661—65, крайчы ВКЛ у 1665—70, ваявода троцкі ў 1670—84, канцлер ВКЛ з 1684; пасол на соймы 1661, 1664, 1668, 1670, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1667, 1668, яго маршалак у 1671. Удзельнік *Паўночнай вайны 1655—60, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. На чале ўласнага палка ўдзельнічаў у *Хацінскай бітве 1673*. Удзельнік падпісання *«Вечнага міру» 1686* з Расіяй. Чл. правасл. Віленскага Святадухаўскага і Магілёўскага Богаяўленскага брацтваў. У 1668 пабудаваў правасл. царкву ў Смілавічах. У 1669 прыняў каталіцтва. У 1663 ажаніўся з Марцыбелай Глябовіч, дачкой апошняга з роду Глябовічаў Ежы Караля. За ёй атрымаў тытул графа «на Дуброўне» з паловай маёнткаў Дуброўна і Заслаўе, а таксама яе спадчыну ад маці — Іўе. Павялічыў свае маёнткі, атрымаўшы ў 1667 Дарсунішскае і Рагачоўскае староствы. Быў адным з уплывовых магнатаў ВКЛ. У канцы жыцця належаў да групоўкі Сапегаў. Другім шлюбам з 1685 быў жанаты з Канстанцыяй Кацярынай Веляпольскай. Нашчадкаў не пакінуў. Яго спадчына перайшла да стрыечнага брата Шымана Караля, а спадчына Глябовічаў — да К.Сапегі, мужа 2-й дачкі Е.К.Глябовіча.

Мікалай Францішак (?—1715), сын Яна. Маршалак ваўкавыскі з 1676, адначасова ў 1685—95 мечнік ВКЛ, падскарбі надворны ВКЛ у 1695—1711, кашталян троцкі з 1711; староста радашковіцкі з 1693. У 1686 падпісаў мірны дагавор з Расіяй.

Рыгор Антоні (?—17.10.1709), сын Яна. Чашнік ВКЛ у 1684—87, вял. харужы ВКЛ у 1687—98, староста жамойцкі з 1698 і адначасова гетман польны ВКЛ з 1703; пасол на соймы 1690, 1695, 1696. У 1696 узначаліў канфедэрацыю бел. і літ. шляхты, якая павяла ўзброеную барацьбу супраць Сапегаў (гл. *Феадальная вайна 1697—1702*). У 1700 са сваім войскам разбіў атрады Сапегаў пад Алькенікамі. Прыхільнік караля Аўгуста II Моцнага і цара Пятра I. У час *Паўночнай вайны 1700—21* ваяваў супраць шведскіх войск і атрадаў Станіслава Ляшчынскага. Прыхільнік саюзу з Расіяй. Адзін з арганізатараў генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1703, якая змагалася супраць шведаў нават пасля капітуляцыі караля Аўгуста II і магнатаў. Атрымаў некалькі перамог над шведскімі войскамі. З жонкай Тэафілай Чартарыйскай меў сыноў Яна (?—1710; кухмістр ВКЛ з 1709), Казіміра Марцыяна і 3 дачок.

Казімір Дамінік (?—10.10.1733), сын Яна. Ваявода троцкі ў 1710—30 і віленскі з 1730. Удзельнік Паўн. вайны. У шлюбе з Элеанорай Войнай меў сына Юзафа Яна Тадэвуша.

Марцыян Міхал (1672—29.10.1750), сын Шымана Караля. Мечнік ВКЛ у 1695—1703, віцебскі кашталян у 1703—30 і ваявода з 1730. Удзельнік апазіцыі 1720—30-х г. Абапіраўся на сувязі з рас. дваром. У шлюбе з Тэрэзай Бжастоўскай меў сыноў Ігнацыя, Казіміра, Тадэвуша Францішка, Францішка Ксаверыя і Станіслава Ежы, 3 дачок; у шлюбе з Тэрэзай Тызенгаўз — 2 дачок.

Ігнацы (каля 1698—сак. 1775), сын Марцыяна Міхала. Абозны ВКЛ у 1729—44, маршалак надворны ВКЛ у 1744—50, маршалак вялікі ВКЛ у 1750—68, кашталян віленскі з 1768; староста барысаўскі з 1726 і браслаўскі ў 1728—40; пасол на соймы 1729, 1730, 1733, 1736, 1737, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1732. У 1740 і 1743—40 быў паслом у Пецярбургу. Падтрымліваў Чартарыйскіх, у паліт. дзейнасці арыентаваўся на Расію, за што Кацярына II захавала за ім права на маёнткі ва ўсх. Беларусі. З 1739 жанаты з Аленаю, дачкой К.Д.Агінскага, якая мела вял. ўплыў пры двары рас. імператрыцы Ганны Іванаўны. Дзяцей не меў, яго ўдава да 1792 валодала маёнткамі Бобр і Бялынічы.

Юзаф Ян Тадэвуш (1700—6.12.1736), сын Казіміра Дамініка. Ген.-маёр войска ВКЛ (1726), мечнік ВКЛ у 1729—30, ваявода троцкі з 1730. Прыхільнік Аўгуста III. Разам з рас. войскамі змагаўся супраць праціўнікаў саксонскай групоўкі ў ВКЛ. У шлюбе з Ганнай, дачкой М.С.Вішнявецкага, меў сына Міхала Казіміра і 7 дачок.

Станіслаў Ежы (1710—14.6.1748), сын Марцыяна Міхала. Кашталян мсціслаўскі ў 1738—40 і віцебскі з 1740. Прыхільнік Станіслава Ляшчынскага ў 1733.

Тадэвуш Францішак (26.8.1712—25.11.1783), сын Марцыяна Міхала. Пісар вялікі ВКЛ у 1737—44, троцкі кашталян ў 1744—70 і ваявода з 1770. У шлюбе з Ізабелай Радзівіл меў сыноў Андрэя і Францішка Ксаверыя, у шлюбе з Ядвігай Залускай дзяцей не меў.

Міхал Казімір (1730—1800), сын Юзафа Яна Тадэвуша. Гл. *Агінскі* М.К.



Да арт. **Агінскія**.
А.Агінскі (1740—87).

Андрэй (13.4.1740, Тадуліна, Віцебскае ваяв.—12.10.1787), сын Тадэвуша Францішка. Мечнік ВКЛ у 1762—71, рэферэндар ВКЛ у 1771—73, сакратар вялікі ВКЛ у 1773—78, троцкі кашталян у 1778—83 і ваявода з 1783; староста ашмянскі з 1756; пасол на соймы 1756, 1758, 1762, 1764, 1776 (яго маршалак), дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1757, яго маршалак у 1760. Быў паслом у Пецярбургу, Вене, Берліне. Прыхільнік Станіслава Аўгуста Панятоўскага і ўзмацнення каралеўскай улады. У шлюбе з Паўлай, дачкой М.Шэмбека, меў сына Міхала Клеафаса.

Міхал Клеафас (1765—1833), сын Андрэя. Гл. *Агінскі* М.К.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Jankowski C. Powiat Oszmiański: Materjały do dziejów ziemi i ludzi. Cz. 2. Petersburg; Kraków, 1897; Власьев Г.А. Потомство Рюрика: Материалы для составления родословий. Т. 1, ч. 1. СПб., 1906; Хмяльніцкая Л. Род фундатараў і мецэнатаў // Віцебскі сшытак. 1995. № 1; Яе ж. Działalność kulturalno-mecenasowska Ogińskich na Witebszczyźnie // Przegląd Wschodni. 2001. Z. 4 (28); Лідке М. Сувязі Агінскіх з пратэстанцтвам у першай палове 17 ст. // Гістарычны альманах. Т. 5. Гародня, 2001; Скеп'ян Н. Мецэнацтва сям'і Багдана Агінскага // Спадчына. 2002. № 2—3.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Агрыпа** Вацлаў (Венцлаў; каля 1525—97), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, дыпламат, палеміст. Сын Венцаслава Мікалаевіча (*Міхалона Літвіна*). Вучыўся ў Кракаўскім (з 1548) і Вітэнбергскім (з 1552) ун-тах. У 1552 каморнік ваяводы віленскага М.Радзівіла Чорнага, у 1563 каралеўскі сакратар у Інфлянтах, у 1569—70 пісар польны інфлянцкі, у 1572 рэвізор каралеўскіх маёнткаў у Інфлянтах. Маршалак сойма 1574, на якім каранаваны Генрык Валезы. У час бескаралеўя 1574—75 разам з Радзівіламі быў на баку Габсбургаў, удзельнічаў у пасольстве ў Вену да імператара. Пасля пагадзіўся з новаабраным каралём Стафанам Баторыем. У 1576—86 вял. пісар ВКЛ, працаваў у канцылярыі караля, удзельнічаў у яго паходах на Гданьск, Вялікія Лукі (у 1580 прымаў там маскоўскіх паслоў) і Пскоў. У 1581 прымаў прысягу Рыгі. Кашталян менскі ў 1586—90 і смаленскі з 1590. Быў знаўцам публічнага і дзярж. права, прымаў удзел у стварэнні Статута ВКЛ 1588. Вызнаваў лютэранства, вёў рэліг. палеміку з папскім нунцыем у Рэчы Паспалітай А.Ліпаманам, пераклаў на польск. мову казанні ням. рэфарматара І.Брэнца (выдадзены ў 1588 у Вільні ў друкарні Я.Карцана). Аўтар кн. «Пахавальная прамова пра ... князя ... Яна Радзівіла, князя на Нясвіжы і Алыцы, жыццё і смерць» («Oratio funebris de ... principis ... Iohannis Radzivili Oliciae et Nesvisii ducis, vita et morte» (1553, без месца выдання). Пасынак А. — Г.*Пельгрымоўскі*.

***Валерый Пазднякоў.***

**агульназемскія прывілеі**, заканадаўчыя акты ВКЛ, якія дзейнічалі на тэрыторыі ўсёй дзяржавы і замацоўвалі правы розных сацыяльных груп, найперш шляхты, у агульнадзяржаўным маштабе. Выдаваліся вял. князямі. Найб. вядомыя прывілеі 1387, 1413, 1432, 1434, 1447, 1492, 1501, 1506, 1563, 1564, 1565 (пра кожны гл. асобны артыкул). Выданнем прывілея 1506 завяршыўся першы этап развіцця пісанага права ў форме А.п., бо асн. законамі сталі Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588.

***Язэп Юхо.***

**Адам** (Адамус, Adamus) Рэйнальд (1602, княства Пфальц, Германія—пасля 1653), кальвінісцкі тэолаг, педагог у ВКЛ. З 1622 вучыўся ў Лейдэнскім ун-це (Нідэрланды). Па запрашэнні К.*Радзівіла* пераехаў у ВКЛ. Працаваў выкладчыкам у Слуцкай гімназіі. Разам з педагогамі А.Дабжанскім і А.Музоніем склаў на лац. мове статут, праграму і расклад заняткаў для гэтай школы («Ordo scholae slucensis», Любча, 1628). У кнізе даюцца арыгінальныя метадычныя ўказанні па курсу л-ры і гісторыі, арганізацыі тэатральных паказаў, фізічнай падрыхтоўцы навучэнцаў; з павагаю гаворыцца пра духоўную адоранасць жыхароў Случчыны, даецца кароткае апісанне бел. прыроды. У 1629 Віленскі сінод зацвердзіў да друку падрыхтаваныя А. дапаможнікі па рыторыцы і гісторыі. Дапаможнік па рыторыцы выдадзены ў Любчы каля 1630, змяшчаў тропы і стылістычныя фігуры, якія былі праілюстраваны прыкладамі з антычнай л-ры і штодзённага жыцця Беларусі. Выхавальнік Я.*Радзівіла*, суправаджаў яго ў час вучобы ў Зах. Еўропе. Пасля вяртання ў 1633 яго дарадца ў рэліг. і культ. справах. У 1642 па даручэнні Віленскага сінода інспектаваў кальвінісцкія школы ў Слуцку і Кейданах. Асеў у Кейданах, дзе працаваў бібліятэкарам, склаў праграму і расклад заняткаў для школы (1647). Удзельнічаў у пратэстанцкіх сінодах у Орлі (1644) і Торуні (1645).

**Адамовіч** Ян, беларускі гравёр па шкле 18 ст. З прыгонных. Працаваў на шклоa мануфактурах Радзівілаў: у мяст. Белая (цяпер Бяла-Падляска, Польшча), з 1760 на мануфактуры ў в. Урэчча (цяпер Любанскі р-н). У 1781 працаваў у гравіравальным цэху, гравіраваў сталовы посуд і люстэркі.

***Мая Яніцкая.***

**Адамус** (Adamus) Ян Юзаф (12.3.1896, г.Кракаў—19.6.1962), польскі гісторык права. Д-р габілітаваны (1933), праф. звычайны (1958). Вучыўся ў Вене, у 1920 скончыў Львоўскі ун-т. У 1924—33 выкладаў у Львоўскім ун-це, у 1930—33 супрацоўнік час. «Przewodnik historyczno-prawny» («Гісторыка-прававы дапаможнік»). У 1933—39 працаваў у Гар. архіве ў Вільні, выкладаў у Віленскім ун-це. У 1940 зняволены сав. ўладамі, з 1941 у арміі У.Андэрса ў СССР, з 1942 на Блізкім Усходзе, пасля ў Вялікабрытаніі. З 1948 выкладаў у Лодзінскім ун-це. Даследаваў гісторыю дзяржавы і права ВКЛ і Польшчы. У галіне гістарыяграфіі крытыкаваў манархічныя погляды т.зв. Кракаўскай школы, прытрымліваўся рэсп. поглядаў І.Лялевеля.

*Тв.*: Zastaw w prawie litewskim XV i XVI wieku. Lwów, 1925; Z zagadnień prawa litewskiego. Lwów, 1926; O tytule panującego i państwa litewskiego parę spostrzeżeń // Kwartalnik historyczny. 1930. R. 44; Państwo litewskie w latach 1386—1398 // Księga pamiątkowa ku uczczeniu cztere-

chsetnej rocznicy wydania pierwszego statutu litewskiego. Wilno, 1932; Kodeks dyplomatyczny Litwy // Ateneum Wileńskie. 1932. R. 7; O prawno-państwowym stosunku Litwy do Polski // Pamiętnik VI Powszechnego Zjazdu Historyków Polskich w Wilnie. Lwów, 1935. T. 1; Wydawnictwa źródeł do historii Litwy // Ńřě ćf; O wstępnych aktach procesu litewskiego (do II statutu) // Ateneum Wileńskie. 1937. R. 12; Najnowsza literatura o akcie krewskim // Wiadomości Studium historii prawa litewskiego Uniwersytetu Stefana Batorego. Wilno, 1938. T. 1; O monarchii Gallowej. Warszawa, 1952; Polska teoria rodowa. Łódź, 1958; Monarchizm i republikanizm w syntezie dziejów Polski. Łódź, 1961; O herbie miasta Wilna. Łódź, 1996.

*Літ.*: Bardach J. Jan Adamus (1896—1962): Próba charakterystyki naukowej // Czasopismo prawno-historyczne. 1963. Z. 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**Адахоўскі** Крыштоф (?—ліст. 1661), ваенны дзеяч ВКЛ. З шляхецкага роду герба «Наленч», галіна якога ў 16 ст. перасялілася з Польшчы ў ВКЛ. Пасля пачатку паўстання Б.Хмяльніцкага (1648) уступіў у гусарскую харугву К.З.Паца. З нападам на Рэч Паспалітую шведаў (1655) сваім коштам выставіў казацкую харугву, на чале якой ваяваў у Жамойці, Інфлянтах і Курляндыі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1659 быў ротмістрам казацкай харугвы ў дывізіі М.К.Паца, з 1660 палкоўнік. Удзельнічаў у *бітве на Басі 1660*, у баях каля Друі 1661, у *Кушліцкай бітве 1661*. У вер. 1661 вайсковая канфедэрацыя пазбавіла А. камандавання над палком, але ён захаваў уплыў у войску. Быў сярод канфедэратаў адным з гал. кандыдатаў на пасаду іх маршалка. Належаў да прыхільнікаў паразумення з каралём Янам II Казімірам. Загінуў у сутычцы з прыхільнікамі маршалка канфедэрацыі К.Жаромскага. Трымаў Біржынянскае цівунства ў Жамойці (з 1658 або 1659).

***Валерый Пазднякоў.***

**Адзінцоў** (Одинцов) Нічыпар Фёдаравіч (1852—1906), гісторык царквы і педагог. З сям'і правасл. святара Себежскага пав. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1873?), Пецярбургскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя (1877). З 1877 выкладаў у сярэдніх навучальных установах Астрахані. З 1882 інспектар дырэкцыі нар. вучылішчаў Віленскай губ.; з 1889 акруговы інспектар Віленскай навуч. акругі. Вывучаў гісторыю правасл. і уніяцкага набажэнства і богаслужэбнай кнігі; на падставе аналізу зместу і прыпісак уніяцкіх службоўнікаў ВКЛ 17—18 ст. зрабіў выснову аб іх дваістай ролі адносна каталіцкіх уплываў на абраднасць — спрыяльнай для каталіцызму на працягу 1-й пал. гэтага перыяду і рэзка апазіцыйнай у час другой.

*Тв.*: Последование таинств в церкви русской в XV столетии, по рукописям Новгородской Софийской и Московской синодальной библиотек // Странник. 1880. Кн. 3—4; Порядок общественного и частного богослужения в древней России до XVI века: Церк.-ист. исслед. СПб., 1881; Униятское богослужение в XVII и XVIII веках по рукописям Виленской публичной библиотеки. Вильна, 1886.

***Валерый Антонаў.***

**Адзінцэвічы**, Адынцэвічы, княжацкі род уласнага герба «Адынец». Верагодна, паходзілі ад полацкіх або друцкіх князёў. У адным з *супрасльскіх рукапісаў* змешчаны ўласны радавод А., у якім прыведзены малаверагодныя звесткі пра паходжанне роду. Згодна з ім, родапачынальнік Іван Адзінец прыбыў «з Немец» і княжыў у Друцку. Ён меў сына Міхаіла і ўнука Андрэя. Апошні



Герб роду **Адзінцэвічаў**.

пакінуў сыноў Фёдара і Аляксандра і дачку, якая стала жонкай вял. князя ВКЛ Жыгімонта Кейстутавіча. Род А. згас у канцы 16—пач. 17 ст. Найб. вядомыя:

Аляксандр Андрэевіч (?—?), сын Андрэя Міхайлавіча. Валодаў маёнткам Рэпухава. Разам з сынам Рыгорам выехаў у Маскву.

Рыгор (?—?), сын Аляксандра Андрэевіча. Каля 1442 атрымаў ад вял. князя ВКЛ Казіміра с. Рыколаўскае. Разам з бацькам выехаў у Маскву.

Фёдар Андрэевіч (?—пасля 1442), сын Андрэя Міхайлавіча. У час *феадальнай вайны 1432—39* удзельнічаў у Ашмянскай бітве 1432 на баку вял. кн. Свідрыгайлы і трапіў у палон да Жыгімонта Кейстутавіча. Каля 1442 атрымаў ад Казіміра с. Прыхабы. Ад жонкі Аксінні (дачкі кн. Андрэя Усеваладавіча Шуціхі) меў сыноў Дзмітрыя, Івана, Багдана, Рыгора і дачку Марыю. Ад Івана пайшла багрынаўская лінія роду (яе прадстаўнікі зваліся князямі Адынцэвічамі-Багрынаўскімі і Багрынаўскімі), ад Дзмітрыя — гольцаўская, ад Багдана — адзінцэвіцкая.

Іван Фёдаравіч (?—да 1509), старэйшы сын Фёдара Андрэевіча. Ад жонкі — дачкі смаленскага баярына Плюскава — меў сыноў Рыгора і Васіля.

Дзмітрый Фёдаравіч (?—да 1508), сын Фёдара Андрэевіча. Валодаў маёнткамі Гольцава, Шыйка і Крывая каля Друцка, дваром у Друцку. Ад жонкі Ульяны (сястры кн. С.І.Бельскага) меў сыноў Васіля, Івана, Арэхву, Андрэя, дачок Федку і Ганну. Памёр незадоўга да *Глінскіх мяцяжу 1508*, яго сыны, замешаныя ў мяцяжы, выехалі ў Маскву. Усе іх маёнткі атрымаў брат Дзмітрыя Рыгор.

Багдан Фёдаравіч (?—пасля 1528), сын Фёдара Андрэевіча. У *бітве на Вядрошы 1500* трапіў у маскоўскі палон. Пасля вяртання судзіўся за маёнткі Лемніца і Палонна каля Оршы. У 1524 атрымаў пацвярджэнне на маёнткі Астраўляны, Асечна, Удалоева, Камянец і Арэшаў на Полаччыне. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 30 коннікаў.

Сямён Багданавіч (?—1542), сын Багдана Фёдаравіча. Дваранін гаспадарскі ў 1516, гараднічы гарадзенскі з 1532, верагодна, у 1534 быў часова жамойцкім старастам; дзяржаўца любашанскі з 1536, адначасова смалянскі з 1540. Ад жонкі Настассі (дачкі кн. М.А.Сангушкі) атрымаў Дзярэчын (валодаў ім супольна з А.М.Сангушкам і І.А.Палубінскім), меў сына Андрэя, дачок Марыю (жонка Л.Б.Абразцова) і Ганну (жонка кн. Ю.В.Саламярэцкага, пасля кн. Ф.П.Галаўні-Астрожацкага). Для яго ў 1519 складзе-ны Супрасльскі рукапіс з радаводам князёў А.

Рыгор Іванавіч (?—1559), старэйшы сын Івана Фёдаравіча. Валодаў часткай Друцка. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 5 коннікаў. Ад жонкі Ганны меў сына Івана, дачок Марыну (жонка Я.Палускага)

і Аксінню (жонка кн. Б.Друцкага-Саколінскага).

Васіль Іванавіч (?—канец 1555 або пач. 1556), малодшы сын Івана Фёдаравіча. Валодаў часткай Друцка, маёнткамі Багрынава, Нястанавічы, Крайск, Хатаевічы. Не меў жонкі і дзяцей.

Іван Рыгоравіч (?—да 1559), сын Рыгора Іванавіча. Валодаў Багрынавам. Быў жанаты з дачкой кн. А.С.Друцкага-Саколінскага-Бабіча, потым з Ганнай, дачкой Г.Есьмана, меў сыноў Сямёна і Дзмітрыя, дачок Тамілу і Багдану.

Андрэй Сямёнавіч (?—канец 1566), сын Сямёна Багданавіча. Гараднічы менскі з 1549, у 1555 ротмістр, пасол да татарскага хана, маршалак гаспадарскі і стараста аршанскі з 1560. Валодаў маёнткамі Падбярэззе, Басея, Прылукі, Мышкавічы, Рэпухаў, Бабіна, Зазер'е. Ад жонак княжны Федзі Багданаўны Заслаўскай і Гальшкі Янаўны Глябовіч меў сыноў, якія памерлі маладымі.

*Валерый Пазднякоў.*

**Адлерфельт** (Adlerfelt) Густаў (1671—28.6.1709), шведскі прыдворны, у дзённіку якога адлюстраваны многія падзеі пачатку 18 ст., у т.л. на Беларусі. Вучыўся ва ун-тах Упсалы (Швецыя), Гале (Германія), падарожнічаў па Даніі, Галандыі, Англіі, Францыі. Гоф'юнкер (1700), пры двары Карла XII (з 1701), суправаджаў яго ў паходах. У час *Паўночнай вайны 1700—21* вёў дзённік ваен. падзей (у т.л. на Беларусі), дапаўняў яго афіц. дакументамі, інш. крыніцамі. Загінуў пад Палтавай. Дзённік часткова выдадзены (ананімна) у 1707 у Гамбургу, дапрацаваны сынам А. Карлам Максімілянам Ёганам і выдадзены ў пер. на франц. (1740, 1741), англ. (1740) і ням. (1740—42) мовы. Арыгінал выдадзены ў 1919.

*Тв.*: Warhaffter entwurf der Krieges-Taten Carls XII... Hamburg, 1707; Histoire militaire de Charles XII, roi de Suède... Vol. 1—4. Amsterdam, 1740; Karl XII: S Krigsföretag 1700—1706. [Stockholm], 1919.

*Валянцін Грыцкевіч.*

**Адоеўскае княства**, феадальная дзяржава ва Усх. Еўропе. Утварылася ў сувязі з пераносам у 1375 кн. Раманам Сямёнавічам сталіцы *Навасільскага княства* ў г. Адоеў на правым беразе р. Упа (прыток Акі). Пасля перамогі вял. князя ВКЛ Альгерда ў *бітве каля Сініх Вод 1362* А.к., як і іншыя *Вярхоўскія княствы*, трапіла пад уплыў ВКЛ. У 1-й пал 15 ст. актыўная палітыка вял. князя ВКЛ Вітаўта ў напрамку вярхоўяў Акі не закранула ўладанняў адоеўскіх князёў, якія, адпаведна з маскоўска-разанскай дамовай 1402, знаходзіліся «на баку» вял. князя маскоўскага. У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1406—08* у 1407 Адоеў захоплены і спалены літвінамі; на тэр. А.к. заснавана намесніцтва з цэнтрам у г. Мцэнск. Пасля 1408 адоеўскі князь паранейшаму служыў Маскве. У 1422 вял. князь ВКЛ Вітаўт вызваліў кн. Ю.Р.Адоеўскага, якога татары трымалі ў аблозе ў Адоеве. У 1427 князі навасільскага дому прызналі васальную залежнасць ад Вітаўта, якіаднавіў антыардынскую палітыку ВКЛ. Дзякуючы свайму пагранічнаму становішчу А. к. захавала пэўную самастойнасць у складзе ВКЛ. Адносіны з велікакняжацкай уладай рэгуляваліся дагаворамі, за князямі захоўвалася права «ад'язджаць» ад вял. князя ВКЛ са сваімі ўладаннямі. Вядомы дагаворы 1442 і 1459. У 1473 на маскоўскую службу перайшоў С.Ю.Адоеўскі, але яго неўзабаве забілі. 10.4.1483 быў аднюўлены дагавор вял. князя ВКЛ Казіміра з адоеўскімі і інш. князямі. У 1487 пачалася вайна паміж ВКЛ і Вял. княствам Маскоўскім, у якой найб. актыўнымі прыхільнікамі Масквы выступілі адоеўскія князі. У выніку дагавора 1494 Казімір быў вымушаны адмовіцца ад вярх. улады над адоеўскімі і некаторымі інш. князямі, уладанні якіх сталі часткай Вял.княства Маскоўскага.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892; Яго ж. Образование основной государственной территории великорусской народности: (заселение и объединение центра). Л., 1929; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV — XVI вв. М.; Л., 1950; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории. XIII — середина XVI вв.). Тула, 1993; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XVI— первой трети XVI в. М., 1995; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. 2 изд. М., 2001.

*Віктар Цемушаў.*

**адопцыя** (ад лац. adopcio усынаўленне, прыём), 1) у праве ВКЛ назва ўсынаўлення, прызнання пазашлюбнага дзіцяці (*бенкарта*) законным. 2) Прыём шляхціцам да свайго роду няшляхціца з прадастаўленнем яму права карыстацца гербам гэтага роду, т.зв. «А. праз герб» («adoptio per arma»). У ходзе заключэння *Гарадзельскай уніі 1413* шляхам А. шматлікія роды літ. баярства парадніліся з польскімі родамі і атрымалі іх гербы. У 16 ст. польскія роды адаптавалі яшчэ некалькі дзесяткаў родаў з ВКЛ. Канстытуцыя Рэчы Паспалітай 1601 забараніла шляхце самавольна надаваць свае гербы няшляхце, што паўторана на каранацыйным сойме 1633, аднак яшчэ і ў 18 ст. набожныя шляхціцы адаптавалі яўрэяў, даючы ім свае гербы і нават прозвішчы, калі тыя згаджаліся прыняць хрысціянства.

*Літ.*: Bardach J. Adopcja w prawie litewskim XV i XVI w. // Bardach J. Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII w. Warszawa, 1970.

*Валерый Пазднякоў.*

**«Адравонж»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 60 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Адравонжы, Аўгусціновічы, Высагерды, Капусты, Храптовічы, Шыдлавецкія. На чырвоным полі сярэбраная страла наканечнікам уверх і 2 вусамі ўніз; клейнод — на прылбіцы паўлінавыя пёры, на іх фоне такая ж страла ўлева. Вядомы з 14 ст., у ВКЛ пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

*Валерый Пазднякоў.*



Герб **«Адравонж»**.

**Адраджэнне**, Рэнесанс (франц. Renaissance), эпоха станаўлення духоўнай культуры Новага часу ў Зах., Цэнтр., Паўн. і Усх. Еўропе (14 — 1-я пал. 17 ст.), у т.л. ў ВКЛ. Тэрмінам А. абазначаюцца таксама грамадска-культ. рухі ў гісторыі некат. народаў, у т.л. славянскіх, якія знітаваны з агульным духоўным і паліт.



уздымам у больш раннія ці познія перыяды, вызв. барацьбой, абуджэннем нац. свядомасці, станаўленнем дзяржаўнасці (балгарскае, чэшскае, бел. і інш. А.).

А. ў ВКЛ (16 — пач. 17 ст.) абумоўлена пазітыўнымі зменамі ў эканамічным, сац.-паліт., духоўна-культурным жыцці бел., укр. і літ. народаў, развіццём гарадоў, актывізацыяй прагрэсіўнага магнацка-шляхецкага руху за рэфармаванне грамадска-дзяржаўных ін-таў краіны. У гэты час адбываецца эканам. і сац.-паліт. стабілізацыя ВКЛ як адзінай дзяржавы (аграрная, адм., судовая, ваен. рэформы ў 1550—80-я г.), фарміраванне бел., укр. і літ. народнасцей і іх самасвядомасці, пашырэнне міжнар. культ. сувязей, рэфармацыйны і гуманістычны рух, секулярызацыя духоўнага жыцця грамадства, якая выяўлялася ў развіцці айч. адукацыі, кнігадрукавання, прытоку кніг з-за мяжы і камплектаванні айч. кнігасховішчаў і бібліятэк, распаўсюджванні мецэнацтва і ўзнікненні гуманістычных цэнтраў пры дварах буйных феадалаў ВКЛ (Алелькавічаў, Радзівілаў, Хадкевічаў, Кішкаў, Глябовічаў, Астрожскіх і інш.), захапленні антычнай культурай, адукацыі моладзі ВКЛ у зах.-еўрап. ун-тах і інш. Працягваецца працэс станаўлення бел. і укр. моў і іх дыферэнцыяцыі, а таксама літ. мовы, нац. пісьменнасці на лац. і польскай мовах, узнікае новая гістарыяграфія, філас. і грамадска-паліт. думка, прававая тэорыя, выяўл. мастацтва, архітэктура, музыка, тэатр. А. ў ВКЛ прайшло 3 перыяды: ранні (пач. 16 ст. — 1550-я г.) — станаўленне або пранікненне ў грамадскую свядомасць ідэй рэформ і рэлігійна-духоўнага аднаўлення; развіты (2-я пал. 16 ст.) — сінтэз рэфармацыйна-гуманістычнай тэорыі з рэальнай сац.-дзяржаўнай, царкоўнай і культ. практыкай); позні (пач. 17 ст.) — барацьба за выжыванне ва ўмовах *Контррэфармацыі* і развіцця айч. культуры *барока*.

З тыпалагічнага пункту гледжання А. ў ВКЛ з'яўляецца транзітыўным, або пераходным перыядам, і адносіцца да ўсх.-еўрап. А., па сваіх параметрах блізкага да А. паўночнага (Германія, скандынаўскія краіны, Англія). З'яўляючыся адзінствам агульнаеўрапейскага і рэгіянальна-нацыянальнага, А. ў ВКЛ мела свае спецыфічныя рысы: сутыкненне ўсх. і зах. рэлігійна-царкоўных і духоўна-культ. каштоўнасцей, станаўленне нацыянальных (бел., укр. і літ.) культур у складзе поліэтнічнай і рознарэлігійнай інтэграванай дзяржавы ва ўмовах незавершанага працэсу нац. дыферэнцыяцыі бел., укр. і літ. народаў. Транзітыўны характар эпохі А. быў знітаваны са станаўленнем новых каштоўнасных арыенціраў, якія складалі сутнасць новага рэнесансава-гуманістычнага светапогляду і фарміраваліся ў барацьбе з пануючай сярэдневяковай, артадаксальнай ідэалогіяй. Адметнымі рысамі рэнесансава-гуманістычнага светапогляду былі: уяўленне пра самакаштоўнасць чалавечага жыцця, або адраджэнскі антрапацэнтрызм, у якім галоўнай была праблема зямнога прызначэння чалавека, а не замагільнай узнагароды; вучэнне пра свабоду як галоўную ўмову шчаслівага жыцця чалавека, яго вялікія магчымасці ў адносінах да самога сябе, пазнання, творчасці; рацыяналізм і натуралізм як пераважныя спосабы інтэрпрэтацыі прыродна-сацыяльнай рэчаіснасці, чалавека (Ф.*Скарына*, М.*Гусоўскі*, С.*Будны*, В.*Цяпінскі*, Л.*Сапега*, А.*Волан* і інш.). Характэрная адзнака айч. А. — наяўнасць у ВКЛ на працягу пэўнага перыяду (2-я пал. 16 ст.) адноснай рэлігійнай талерантнасці, што зафіксавана як у афіц. дакументах (акт *Варшаўскай канфедэрацыі 1573*, *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*), так і ў прыватнай мемуарыстыцы («Дзённік» Ф.*Еўлашоўскага*); узаемадзеянне бел., укр., літ., польск. і рус. культур, сувязь рэнесансавага гуманізму з айч. *Рэфармацыяй*, паліт. і нац.-культ. рухамі 16—17 ст. Асаблівасцю рэнесансавай культуры ў ВКЛ з'яўляецца яе функцыянаванне ва ўмовах Контррэфармацыі і культуры барока.

Істотным момантам А. ў ВКЛ з'яўляецца станаўленне ўласна бел. культуры. Пачынаючы са Скарыны, рэнесансавая ідэя служэння «агульнаму дабру» набыла нац.-патрыятычную і асветніцка-дэмакр. канкрэтызацыю. Фарміруецца бел. менталітэт — спецыфічны спосаб светаўспрымання і светаадчування, які вызначаў нац. характар і своеасаблівасць духоўнай культуры. Бел. айчынны рэнесансавы гуманізм часцей за ўсё прымаў выгляд «хрысціянскага гуманізму» — светапогляду, які, не парываючы з асн. прынцыпамі хрысціянства, імкнуўся рэвізаваць яго некаторыя традыцыйна-сярэдневяковыя ўяўленні і паняцці (Скарына, Гусоўскі, Будны, Волан і інш.).

З эпохай А. знітавана інтэнсіўнае развіццё айч. філасофскай і грамадска-палітычнай думкі. У яе рэчышчы сфарміраваліся каштоўнасці і ідэалы, якія не толькі паўплывалі на наяўную сац.-дзярж. практыку і духоўную культуру, але і склалі аснову сучаснай духоўнасці і нац. самасвядомасці бел., укр. і літ. народаў. Гэта — ідэя спалучэння агульначалавечага і нацыянальнага, рэнесансава-гуманістычная персаналісцкая канцэпцыя чалавека, звязаная з ідэямі духоўнай свабоды, вяршэнства закону, усведамленне неабходнасці грамадска-рэлігійнай згоды, паразуменне паміж Усходам і Захадам, талерантнасць і рэлігійна-інтэлектуальны плюралізм як гістарычна абумоўленыя рысы ментальнасці ВКЛ, этычная дамінанта айч. філас. культуры, ідэя развіцця духоўнай культуры на нац. падставе, непрымальнасць у духоўным жыцці прымусу і насілля. Аднак гэтыя рэнесансавыя рысы часам спалучаліся з наяўнымі ў грамадстве праявамі рэлігійна-інтэлектуальнай нецярпімасці, ксенафобіі, шляхецкага эгаізму і свавольства, непавагай да існуючых законаў, сац. несправядлівасцю і інш.

Вял. ўплыў на грамадскае жыццё ВКЛ і рэнесансавы светапогляд зрабіла Рэфармацыя, якая арыентавала чалавека не на царкоўны аўтарытэт, а на ўнутраны рэлігійны вопыт, і сцвярджала такім чынам каштоўнасць індывідуальнай свабоды. Аб'ектам крытыкі айч. рэфарматараў-гуманістаў была пануючая бюракратычна-фармалізаваная (пераважна каталіцкая) царква, якая, на іх думку, адышла ад ісцінна хрысціянскіх, біблейскіх прынцыпаў, а не сама ідэя Бога і хрысціянства як рэліг.-светапоглядная сістэма. Тым не менш радыкальнымі рэфарматарамі і гуманістамі ВКЛ пераасэнсоўваліся паняцці Бога, біблейскіх цудаў у духу рацыяналізму, дэізму і натуралізму (*Пётр з Ганёндза*, Будны і яго аднадумцы і інш.). Побач з рацыяналістычна-натуралістычнай у айч. філас. думцы фарміравалася атэістычная плынь (С.*Лавейка*, К.*Бекеш*, прыхільнікі «эпікурэізму»).

Вядучае месца ў светапогляднай сістэме А. ў ВКЛ займала этыка, зыходным прынцыпам якой з'яўлялася ўстаноўка на каштоўнасць зямнога жыцця. Устаноўку сфармуляваў Скарына, яна садзейнічала секулярызацыі этычнай свядомасці грамадства ВКЛ. Рэнесансавая этычная думка цікавілася паняццямі маральнага жыцця свецкага чалавека,

а не рэлігійнага аскета. Увага засяроджвалася ў асноўным на секулярных, свецкіх маральных каштоўнасцях — шчасці, дабрыні, любові да бліжняга, справядлівасці, мудрасці, ведах, працалюбстве, шчодрасці і інш. Пры гэтым не заставаліся ў баку абавязкі чалавека перад Богам і рэлігіяй. Фундаментальным этычным паняццем з'яўлялася паняцце свабоды як магчымасці і права чалавека на добраахвотны выбар, які дарує сам Бог, неабмежаванае развіццё сваёй інтэлектуальна-творчай патэнцыі. Маральна-духоўны свет чалавека трактаваўся айч. мысліцелямі як сінтэз боскага і натуральнага (Скарына, Сапега, Волан), пры гэтым боскае і натуральнае не супрацьпастаўляліся, як у сярэдневяковым светапоглядзе, а спалучаліся і гарманізаваліся. Падставай індывідуалістычнай хрысціянскай духоўнай практыкі з'яўляўся таксама ісіхазм (чалавек у сваіх малітвах і думках злучаецца з Богам і спасцігае рэліг. ісціну), якога прытрымлівалася пэўная частка бел. і ўкр. духавенства. Рэнесансавыя мысліцелі ВКЛ бачылі прагрэс гал. чынам у маральна-духоўным і рэлігійным абнаўленні чалавека і грамадства (Скарына, *Міхалон Літвін*, Волан, Ю.*Даманеўскі* і інш.).

Паводле некат. даследчыкаў (М.Бярдзяеў, А.Лосеў), рэнесансава-гуманістычны прынцып свабоды тоіць у сабе небяспеку ператварэння ў сваю процілегласць. На іх думку, гуманізм эпохі А. меў дваісты характар. З аднаго боку, ён ініцыіраваў творчы патэнцыял чалавека, а з другога — адрываў яго ад боскага свету, сувязі чалавека з вышэйшай мэтай. Самасцвярджэнне чалавека на свецкай, зямной падставе пераўтваралася ў яго самаадмаўленне, таму што страчвалася сувязь з вышэйшымі каштоўнасцямі, а рэнесансавы гуманізм вельмі часта пераходзіў у гранічны індывідуалізм («тытанізм») і амаралізм.

Асн. праблема сац.-паліт. і прававой думкі А. ў ВКЛ — удасканаленне грамадства і дзяржавы, аптымальных і ідэальных сацыяльных, паліт. і юрыд. ін-таў. У рэчышчы гэтай праблемы вырашаліся пытанні ўмацавання дзярж. суверэнітэту ВКЛ, вяршэнства закону, прававога грамадства, справядлівага судаводства і інш. У эпоху А. фарміруюцца паняцці правоў чалавека — на шчасце, годнае жыццё, бяспеку, прыватную ўласнасць, якія ўвайшлі ў залаты фонд сусв. лібералізму. Сапега і Волан трактавалі сац.-гіст. прагрэс як прагрэс паліт. свабоды. Геніяльным прадбачаннем з'явілася ідэя М.*Гусоўскага* аб экалагічным выхаванні чалавека.

Секулярызацыя грамадскай свядомасці ў эпоху А. абумовіла нарастанне цікавасці да гісторыі. М.*Стрыйкоўскі* ў адрозненне ад Арыстоцеля ставіў гісторыю вышэй за паэзію і нават схаластычную філасофію. Ён лічыў гісторыю строгай навукай, маральным і сац. вопытам чалавецтва, разглядаў яе пераважна як арэну барацьбы чалавечых інтарэсаў і жаданняў (страсцей), дзейнасці выдатных гіст. асоб (Альгерда, Вітаўта і інш.). У грамадска-паліт. думцы ВКЛ знайшоў адлюстраванне працэс станаўлення нац. самасвядомасці бел., укр. і літ. народаў. У прадмовах да Бібліі Скарына сфармуляваў ідэал нац. жыцця, у аснове якога павінны быць вера, высокая маральнасць і інтэлект, законапавага, чалавечая годнасць, грамадзянскасць, патрыятызм, клопат пра развіццё айч. культуры, шанаванне роднай мовы. Ідэі нац. самасвядомасці атрымалі сваё развіццё ў творчай спадчыне Гусоўскага, Буднага, Цяпінскага, Сапегі, Л.*Зізанія*, М.*Сматрыцкага*, І.*Пацея* і інш.

На падставе культ. традыцый ВКЛ (візантыйскіх, стараж.-рус., зах.-еўрап., айчынных) развіваліся л-ра і мастацтва. У архітэктуры, іканапісе, жывапісе, графіцы, музыцы, тэатр. мастацтве, эстэт. думцы ВКЛ 16—пач. 17 ст. нагляданіся прыкметы культуры А. і барока.

*Літ.*: Чатырохсотлецце беларускага друку, 1525—1925. Мн., 1926; Odrodzenie w Polsce. T. 1—5. Warszawa, 1955—58; Jurginis J. Renesansas ir humanizmas Lietuvoje. Vilnius, 1965; Конон В.М. От Ренессанса к классицизму: (Становление эстетической мысли Белоруссии в XVI—XVIII вв.). Мн., 1978; Лосев А.Ф. Эстетика Возрождения. М., 1978; Подокшин С.А. Франциск Скорина. М., 1981; Яго ж. Проблема восточноевропейского Ренессанса и гуманизма // Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание. Мн., 1984; Яго ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Яго ж. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003; Скарына і яго эпоха. Мн., 1990; Бердяев Н. Смысл истории. М., 1990; Філософія Відродження на Україні. Київ, 1990; Нічик В.М., Литвинов В.Д., Стратий Я.М. Гуманістичні і реформаційні ідеї на Україні (XVI—початок XVII ст.). Кіїв, 1991; Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991; Burke P. Renesansas. Vilnius, 1992; Бэрк П. Рэнесанс: Пер. з англ. Мн., 1997; Narbutas S. Lietuvos Renesanso literatūra. Vilnius, 1997; Старостенко В.В. Общественно-философская мысль и национальное самосознание белорусов XVI—XVII вв. Могилев, 1999; Encyklopedia of the Renaissance. Vol. 1—6. New York, 1999; Литвинов В. Ренесансний гуманізм в Україні: Ідеї гуманізму епохи Відродження в укр. філософії XV—поч. XVII ст.. Київ, 2000; Багдановіч М. Поўны зб. тв. Т. 2—3. 2 выд. Мн., 2001; Грамадскія ідэалы: нац. традыцыі, сучасны стан, погляд у будучыню. Мн., 2002.

***Сямён Падокшын.***

**адрок**, адказ, выхад, у ВКЛ права селяніна на пераход ад аднаго феадала да другога; тое, што і *выхад сялянскі*.

**Адукацыйная камісія** (Komisja Edukacji Narodowej), свецкая ўстанова па арганізацыі і кіраўніцтве сістэмай школьнай асветы ў Рэчы Паспалітай. Фактычна першая ў Еўропе афіц. структура з функцыямі цэнтр. школьнай улады (аналагічныя структуры ў Англіі, Францыі і Прусіі не змаглі кіраваць навуч. працэсам у агульнадзярж. маштабе з-за недахопу фін. сродкаў). Засн. 14.10.1773 *соймам 1773—75* з мэтай правядзення рэформ у галіне школьнай адукацыі. Гэтаму спрыяла і скасаванне ордэна езуітаў (1773), маёмасць якога перадавалася А.к. Дзейнасць камісіі разгортвалі І.Патоцкі, Я.Снядэцкі, І.*Храптовіч*, А.Паплаўскі і інш. У розны час у яе ўваходзілі А.К.*Чартарыйскі*, А.Замойскі, А.Сулкоўскі, А.Макраноўскі, Я.Малахоўскі, Ф.Бялінскі, С.Панятоўскі, М.Е.Мнішак, Ф.Арачэўскі, Ю.*Нямцэвіч*, А.Гаўронскі, Д.Пільхоўскі, Г.*Страйноўскі*. Першы старшыня (1773—78) — віленскі біскуп І.Я.*Масальскі*, потым М.Панятоўскі.

Аб'ектыўнымі фактарамі неабходнасці рэфармавання школьнай сістэмы былі: развіццё міжнар. і ўнутраных гасп.-эканам. сувязей; актывізацыя гандл. адносін паміж дзяржавамі; распаўсюджванне ў Літве і Беларусі ідэй новай зах.-еўрап. навукі і філасофіі, і, як вынік, аслабленне пазіцый артадаксальнай схаластыкі; рэформа піярскіх школ (уключэнне ў іх навуч. праграмы прыродазнаўчых навук, матэматыкі, эксперыментальнай фізікі, гісторыі і геаграфіі), праведзеная правінцыялам ордэна піяраў С.*Канарскім*; паступовае развіццё ў Зах.



Еўропе і бел.-літ. землях *масонства* ў якасці ліберальнай апазіцыі клерыкалізму і спробы масонскіх лож паўплываць на фарміраванне свецкага духоўнага жыцця. Пэўнае значэнне мелі і публікацыі ў Францыі ў сярэдзіне 18 ст. ананімных эратычных літ. твораў ярка выяўленага антыклерыкальнага характару.

Працэс рэфармавання феадальна-касцельнай сістэмы школьнай адукацыі А.к. ажыццяўляла паэтапна. Першым крокам стала ўпарадкаванне залежнасці школы ад свецкай дзярж. улады. Наступны этап прадугледжваў падрыхтоўку свецкіх пед. кадраў, перапрацоўку навуч. праграм на аснове свецкай ідэалогіі і выпуск новых падручнікаў. Для гэтага вясной 1775 было заснавана «Таварыства элементарных кніг» (старшыня Патоцкі, сакратар былы езуіт Г.Пірамовіч, члены былыя езуіты Я.*Альбертрандзі*, Р.*Княжэвіч*, Ю.Каблянскі, прадстаўнікі ордэна піяраў Паплаўскі і К.*Нарбут* і інш.). Працэс станаўлення прафесіі настаўніка характарызаваўся вызваленнем педагогаў ад духоўнага сану і падпарадкаваннем іх органам свецкай улады. Рэфармаванне падзялялася на 3 этапы: 1773—77, 1777—83, 1783—92. На 1-м этапе ішла распрацоўка новай арганізац. структуры сістэмы адукацыі, якая адпавядала патрабаванням часу і навуч. праграмам, вяліся пошукі аптымальнай мадэлі настаўніка і належнай ідэалогіі выхаваўчай дзейнасці. У школах ажыццяўлялася замена настаўнікаў — былых езуітаў (у 1782 іх было 235 замест 367 у 1774). На 2-м этапе ў 1780—83 распрацаваны «Статут Адукацыйнай камісіі для акадэмічнага саслоўя і школ у краях Рэчы Паспалітай». Яны гарантавалі самакіраванне ў галіне кадравай палітыкі і вырашэння пытанняў унутр. жыцця пед. калектываў, права на фіксаваную заработную плату і пенсію пасля 20 гадоў працы, матэрыяльную дапамогу пры страце здароўя да заканчэння азначанага тэрміну.

Статуты замацавалі іерархічную сістэму школьнай адукацыі. Тэр. Рэчы Паспалітай падзялялася на Польскі і Літоўскі дэпартаменты. У 1775 з Літ. дэпартамента вылучаны Беларускі (кіраўнікі адпаведна Масальскі і Храптовіч). У Літ. дэпартамент уваходзілі Віленскае, Троцкае, Полацкае ваяв., Жамойць; у Беларускі — Навагародскае, Менскае, Берасцейскае ваяв., Беласточчына. Тэрыторыя Польшчы і ВКЛ падзялялася на навуч. акругі, якія сталі называцца аддзеламі. Кіраўніцтва навуч. працэсам ажыццяўлялі Каронная гал. школа ў Кракаве (раней Кракаўская акадэмія) і Гал. школа ВКЛ (раней *Віленская акадэмія*). На тэр. ВКЛ у 1785 акруговыя школы былі ў Вільні (Літоўскі аддзел з падакруговымі школамі ў Вількаміры, Вішневе, Паставах, Беластоку, Лідзе, Відзах), Крожах (Жамойцкі аддзел, падакруговыя школы ў Расейнах, Падубісе, Панявежы, Крэцінзе і Коўне), Навагародку (Навагародскі аддзел, падакруговыя школы ў Менску, Нясвіжы, Слоніме, Слуцку, Бабруйску, Мазыры, Халопенічах і Лужках), Берасці (Палескі аддзел, падакруговыя школы ў Пінску, Жыровічах і Белай), Гародні (Гарадзенскі аддзел, падакруговыя школы ў Ваўкавыску, Шчучыне і Мерачы).

Прадметам пільнай увагі камісіі былі і праблемы пачатковай адукацыі. У 1774 Масальскі апублікаваў праграму навучання гэтага ўзроўню, абавязаў клір сваёй епархіі займацца арганізацыяй прыходскіх (парафіяльных) школ. У выніку каля 1777 толькі ў Віленскай епархіі дзейнічала 330 такіх устаноў, але адмоўная рэакцыя шляхты прывяла да закрыцця большасці з іх і фактычна дэнансавала гэты праект камісіі. Трэба адзначыць, што ў прыходскія сярэднія школы прымалі пераважна дзяцей з шляхецкіх сем'яў і толькі хлопчыкаў. Дзяўчаты вучыліся ў царкоўных або прыватных *пансіёнах жаночых*, і А.к. не мела ўплыву на іх працу. Колькасць гэтых навуч. устаноў была нязначнай, а навуч. праграмы вельмі вузкія.

Больш грунтоўных вынікаў А.к. дасягнула ў справе рэарганізацыі Віленскага і Ягелонскага ун-таў. Метадалагічнай асновай гэтага працэсу стала канцэпцыя рэформы адукацыі Г.*Калантая*. Яе рэалізоўвалі прафесары Снядэцкі, Ф.Радванскі, Я.Яскевіч (Кракаў), Ф.М.*Нарвойш*, Ю.*Сарторыус* і М.*Пачобут-Адляніцкі* (Вільня). У Кракаве былі заснаваны абсерваторыя, батанічны сад, фізічны калегіум (цяпер калегіум Калантая) і першая клініка. Распрацоўкай праекта рэформы Віленскай акадэміі кіраваў Храптовіч. Гал. мэтай універсітэцкай адукацыі ён лічыў пашырэнне навук. ведаў у грамадстве, выкарыстанне апошніх пры вырашэнні важнейшых сац. праблем, грамадзянска-патрыят. выхаванне моладзі. Першачарговую задачу прафесуры ён бачыў у распаўсюджванні асветы шляхам адкрытых лекцый і публікацыі вынікаў сваіх даследаванняў у даступнай форме. Асн. намаганні прапаноўвалася сканцэнтраваць на развіцці фіз. і мед. калегіумаў (факультэтаў). Структура Гал. школы ВКЛ у 1781—82 навуч. г. аказалася кампрамісам паміж задумамі А.к. і рэальнымі кадрава-фін. магчымасцямі. З запланаваных кафедраў фізікі, вышэйшай матэматыкі, астраноміі, хіміі, прыкладной матэматыкі і дапаможных навук. устаноў — абсерваторыі, кабінета эксперыментальнай фізікі, хім. лабараторыі і аптэкі — змаглі пачаць працу толькі некаторыя.

Трэці этап фарміравання кадраў свецкіх педагогаў адметны заснаваннем спец. настаўніцкай семінарыі пры Гал. школе ВКЛ (1783, кіраўнік — Страйноўскі). Да гэтага часу адпаведную падрыхтоўку давала толькі аналагічная семінарыя ў Кракаве. У Вільні слухачы семінарыі вывучалі фізіку і матэматыку, знаёміліся з тагачаснымі перадавымі навук. тэорыямі (у т.л. з поглядамі І.Ньютана). Ярка выражанай прадметнай спецыялізацыі семінарыя не мела, адсутнічаў і спец. курс тэорыі педагогікі.

Пасля 1783 значна ўзмацніўся і кантроль з боку А.к. над выкладчыкамі царкоўных школ. У 1787/88 навуч. г. колькасць вучняў у свецкіх школах складала 6077, а ў манаскіх — 7232 чал. Манахі-настаўнікі абавязваліся праходзіць спец. падрыхтоўку ў семінарыях у Вільні і Кракаве, выкарыстоўваць у навучанні дыдактычна-выхаваўчыя схемы А.к.

Створаная А.к. новая мадэль школы трывала замацавалася ў свядомасці настаўнікаў і грамадства. Сістэма адукацыі цесна ўвязвалася з сац.-паліт. і гасп. патрэбамі дзяржавы. А.к. не абмяжоўвалася навацыямі адносна педагогаў і моладзі, а меркавала ўплываць на развіццё грамадства ў цэлым. Рэфармаваная школа павінна была пераканаць шляхту ў неабходнасці сац.-эканам. змен, распаўсюджванні дасягненняў прыродазнаўства. Намаганні камісіі дазволілі стварыць пэўныя асновы для фарміравання свецкай бел.-літ.-польскай інтэлігенцыі. Нават сціплыя вынікі спроб развіцця парафіяльнай асветы садзейнічалі росту зацікаўленасці некат. часткі грамадства да пашырэння нар. адукацыі і выхаваўчай работы сярод простых людзей. Аднак навуч. праграмы А.к. з ухілам на грунтоўнае засваенне фіз.-матэм. і

прыродазнаўчых дысцыплін і абмежаванне вывучэння лац. мовы на карысць польскай выклікалі актыўны шляхецкі негатывізм. Яго практычным увасабленнем стала ігнараванне створаных А.к. навуч. устаноў і падтрымка дзейнасці нелегальных, якія былі арганізаваны рознымі манаскімі ордэнамі і працавалі па езуіцкіх адукац. праграмах.

А.к. працавала да 31.5.1792, калі *Таргавіцкая канфедэрацыя* стварыла замест яе асобныя Каронную і Літоўскую адукац. камісіі. Яны скасаваны *Гарадзенскім соймам 1793*, які ўтварыў А.к. абодвух народаў (існавала да 1795).

*Літ.*: Савич А.А. Школьная реформа в Польско-Литовском государстве в последней четверти 18-го века // Вест. Наркомпроса БССР. 1922. № 5—6; Teofilewicz D. Działalność Komisji Edukacji Narodowej w województwie podlaskim, 1773—1794. Warszawa, 1971; Dutkowa R. Komisja Edukacji Narodowej: Zarys działalności. Wybór materiałów źródłowych. Wrocław, 1973; Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwie Litewskim. Wrocław etc., 1973; Raporty generalnych wizytatorów szkół Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwie Litewskim (1782—1792). Wrocław etc., 1974; Jobert A. Komisja Edukacji Narodowej w Polsce, 1773—1794: Jej dzieło wychowania obywatelskiego. Wrocław, 1979; Komisja Edukacji Narodowej: Bibliografia przedmiotowa. Warszawa, 1979; Sobczak J. Mapy departamentów litewskich Komisji Edukacji Narodowej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1994. T. 4.

***Мікалай Рыбко.***

**Азярышча**, Езярышча (цяпер гар. пасёлак у Гарадоцкім р-не Віцебскай вобл. Рэспублікі Беларусь), мястэчка ў Віцебскім пав., на беразе воз. Езярышча. Першапачатковая гісторыя А. звязана з *Азярышчанскім замкам*, заснаваным у 14 ст. на паўвыспе воз. Езярышча, на Пн ад сучаснай в.Мястэчка. Замак і сяло, якое, відаць, знаходзілася на месцы в.Мястэчка, былі цэнтрам *Азярышчанскай воласці* (старaства) ВКЛ. Упершыню ўпамінаецца ў апошняй чвэрці 14 ст. як уладанне Ульяны Цвярской, удавы вял. кн. ВКЛ Альгерда. У далейшым традыцыйна перадавалася ва ўдзел жонкам вял. князёў — Алене Іванаўне, потым Боне. У 2-й пал. 15 ст. і з сярэдзіны 16 ст. А. кіравалі велікакняжацкія намеснікі. Адзін з іх, А.Валовіч, у 1550-я—пач. 1560-х г. пабудаваў у А. новы замак. У час Інфлянцкай вайны 1558—82 А. у 1565 занята рас. войскамі, вызвалена ў 1579. У 1583 у А. заснавана мястэчка. У 1-й пал. 18 ст. тут заснавана палатняная ф-ка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Азярышчанская воласць**, Азярышчанскае старaства, дзяржаўнае ўладанне ў ВКЛ у 14—18 ст. Займала прыкладна зах. палавіну сучаснага Гарадоцкага р-на ўздоўж р. Обаль (да ўпадзення ў яе р. Усыса). Першапачаткова ўваходзіла ў Віцебскі пав. і знаходзілася ў пачарговым кіраванні намеснікаў з віцебскага баярства. У 2-й пал. 15 ст. перападпарадкавана непасрэдна вял. кн. Казіміру IV, які прызначаў намеснікаў (дзяржаўцаў) пераважна з буйных феадалаў (Валовічаў, Кішкаў, Радзівілаў). Вял. князі Аляксандр, потым Жыгімонт I Стары перадавалі А.в. у склад уладанняў сваіх жонак (адпаведна Алены Іванаўны і Боны). З сярэдзіны 16 ст., калі мяжа Віцебскага і Полацкага паветаў праходзіла па р. Обаль, частка воласці на правым беразе ракі (с. Роўна і інш.) уваходзіла ў Полацкае ваяводства. З таго часу А.в. называецца ў гіст. крыніцах старaствам. У *Інфлянцкую вайну 1558—82* большая частка А.в. захоплена рас. войскамі, каля с. Казьяны пабудаваны замак. У 1580 воласць вернута ў ВКЛ. З 1582 на працягу шэрагу дзесяцігоддзяў знаходзілася ва ўмоўным уладанні Друцкіх-Саколінскіх. Ахоплівала некалькі дзесяткаў сёл (найбуйнейшыя Болецк, Воската, Выраўля, Мішневічы, Тарапчаны), мястэчкі Азярышча (сучаснае Езярышча) і Гарадок. Пры Друцкіх-Саколінскіх зах. частка А.в. адасобілася ў самастойнае Казьянскае старaства, якое пазней падзялілася на некалькі больш дробных маёнткаў (Арлея, Обаль, Роўна і інш.). Усх. частка захавала назву Азярышчанскае (Езярышчанскае) старaства і знаходзілася ў часовым уладанні Стацкевічаў, Агінскіх, Панятоўскіх, Салагубаў. У 1667 налічвала 215 двароў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Азярышчанскі замак.** Існаваў у 14—17 ст. Размяшчаўся каля мяст. *Азярышча* на паўвыспе воз. Езярышча. У плане чатырохвугольнік (100 × 120 м). Быў абкружаны землянымі валамі з 3 вежамі і ровам, які аддзяляў замак ад астатняй тэр. паўвыспы. У час паводкі замак ператвараўся ў астраўную крэпасць. Паводле храніста Р.*Гейдэнштэйна*, у 16 ст. А.з. меў значныя ўмацаванні і разам з Полацкім замкам панаваў над «усім краем». У Інфлянцкую вайну 1558—82 узяты рас. войскамі і спалены (1565), потым адбудаваны. У 1579 яго знішчылі ў час штурму войскі караля Стафана Баторыя, пазней адноўлены. У пач. 17 ст. ў час пажару ўмацаванні замка згарэлі, адбудаваны па загадзе караля Жыгімонта III Вазы азярышчанскім старастам К.М.Друцкім-Саколінскім. У жн. 1654 замак захоплены рас. войскам на чале з ваяводам С.Стрэшневым. Захаваліся рэшткі валоў.

*Літ.*: Сементовский А.М. Памятники старины Витебской губернии. Спб., 1867; Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Ляўко В.М. Замак Езярышча // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989.

***Вольга Ляўко.***

**Азярэцкія**, княжацкі род, гл. *Друцкія-Азярэцкія*.

**айчызныя людзі**, у ВКЛ у 15—17 ст. залежнае насельніцтва, якое знаходзілася ў спадчынных маёнтках феадалаў. Называлі іх таксама *отчычамі*, *людзьмі непахожымі*. Яны жылі ў адным месцы, у адной вёсцы і неслі з пакалення ў пакаленне феад. павіннасці па спадчыне, таму і атрымалі назву непахожых («неатхожых»), г.зн. на аснове звычаю не мелі права вольнага пераходу ў маёнткі інш. феадалаў. Ужо ў 15 ст. дзярж. ўлада прызнавала за феадаламі права ўласнасці на А.л. Асабістая іх залежнасць ад феадалаў была аформлена *Прывілеем 1447*, паводле якога забаранялася прымаць на дзярж. землі людзей «ізвечных», г.зн. тых, хто здаўна жыў на адным месцы. Выводзіць людзей феадалаў з тых вёсак, дзе яны жылі, катэгарычна забараняў *Судзебнік 1468*. Ва ўсіх здзелках яны перадаваліся разам з зямельным надзелам. Гэта катэгорыя сялянства папаўнялася рознымі шляхамі і перш за ўсё за кошт неаплатных даўжнікоў. Адной з крыніц устанаўлення іх залежнасці было закладніцтва. Закладнікі з Полацкай зямлі ўпамінаюцца ў дакументах сярэдзіны 15 ст. Былі яны ў маёнтках баяр, полацкага правасл. епіскапа і інш. феадалаў. Яны не маглі адчужацца без зямлі. Калі паншчына стала асн. павіннасцю прыгоннага сялянства, А.л. пачалі называць *цяглымі сялянамі*, прыгоннымі людзьмі. На працягу 16—1-й пал. 17 ст. гэта катэгорыя сялян няспынна папаўнялася за кошт падаравання феадалам населе-

ных сялянамі зямель і закупніцтва пахожых сялян. У А.л. таксама ператвараліся тыя *людзі пахожыя*, якія пратэрмінавалі 10-гадовую даўнасць і не маглі заплаціць феадалу грошы за выхад (10 коп грошаў і вяртанне грошай за атрыманую дапамогу). Іх нашчадкі ўжо былі звычайнымі А.л. У Статутах ВКЛ 1529 і 1566 тэрмін даўнасці, пасля якога пахожы селянін не меў права пераходу і станавіўся непахожым, не быў вызначаны, але прыводзіўся 10-гадовы тэрмін земскай даўнасці па маёмасных і крымінальных справах. Феадалы часта выкарыстоўвалі гэта палажэнне, каб запрыгоніць пахожых сялян, якія пражылі больш за 10 гадоў у іх уладаннях. Асабістая залежнасць А.л. ад феадала канчаткова афармлена Статутам ВКЛ 1588. Паводле павіннасцей, якія яны адбывалі, А.л. падзяляліся на цяглых сялян і *чыншавых сялян*. Але сярод іх былі і сяляне вышэйшай катэгорыі — *сялянеслугі* і самыя прывілеяваныя з іх — ваенныя слугі, *панцырныя баяры, путныя баяры*. Сярод іх былі і мяшчане прыватнаўласніцкіх гарадоў, якія не мелі пра-ва пакідаць горад без дазволу магната — уладальніка горада і мусілі выконваць шматлікія павіннасці на карысць магната, дзяржавы, а таксама гар. абшчыны.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Его ж. Право крестьян Белоруссии, Литвы и Украины на землю и выход в XV—XVI вв. // Вопр. истории. 1973. № 12; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Козловский П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.

***Міхаіл Спірыдонаў.***



Старонка **Акадэмічнага летапісу**. Ліст 172.

**Акадэмічны летапіс**, спіс *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*, паводле складу і тэксту блізкі да *Супрасльскага летапісу*. У А.л. уваходзяць скарочаны агульнарус. летапіс, *Смаленская хроніка, «Пахвала Вітаўту»*, смаленскія пагадовыя запісы за 1432—46 і *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»*. Ва ўрыўках збераглася частка па гісторыі Маскоўскай Русі 14—1-й трэці 15 ст. (пачынаецца са звестак 1339, згублены лісты з запісамі падзей 1373—1414 і 1418—27). Не збераглісяпачатковая частка, прысвечаная гісторыі Кіеўскай Русі, і *«Аповесць пра Падолле»*, што была змешчана ў канцы рукапісу. Тэкст Бел.-літ. летапісу 1446 месцамі перададзены недакладна, з памылкамі, аднак ён каштоўны як адзін з ранніх спісаў яго 2-й рэдакцыі. Летапіс уваходзіць у склад рукапіснага зборніка сярэдзіны 16 ст., які захоўваецца ў б-цы Рас. АН у Санкт-Пецярбургу. Апублікаваны ў 17-м (1907) і 35-м (1980) тамах «Поўнага збору рускіх летапісаў».

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**аканом**, кіраўнік панскай гаспадаркі, наглядчык за працай у *фальварку*. Тэрмін вядомы з канца 16 ст. А. нёс адказнасць за гасп. дзейнасць у маёнтку, трымаў пад кантролем суд над сялянамі, кіраваў зборам падаткаў. На А. ўскладаўся абавязак кантролю за падуладнымі яму намеснікамі асобных фальваркаў. Ён вёў таксама ўсю гасп. справаздачу, якую прад'яўляў на рэвізію гаспадару ці яго адміністратару. Пасаду А. ў большасці выпадкаў займалі прадстаўнікі шляхецкага саслоўя.

*Літ.*: Кернажыцкі К.І. Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст. Мн., 1935; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века. Вильнюс, 1966; Козловский П.Г. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XVIII в. Мн., 1974.

***Уладзімір Пашкевіч.***

**Акіншэвіч** Леў Аляксандравіч [25.1(6.2).1898, С.-Пецярбург—7.11.1980], бел. і ўкр. гісторык. Вучыўся ў Кіеўскім ун-це (з 1916 і з 1918), скончыў Кіеўскую вайск. школу (1918). Служыў прапаршчыкам у Сімферопалі і на Румынскім фронце. У 1918 удзельнічаў у працы бел. арг-цый Кіева, прыняў грамадзянства БНР. У 1919—20 сакратар юрыд. аддзела Кіеўскага саўнаргаса. З 1921 навук. супрацоўнік Укр. АН, сакратар Камісіі па вывучэнні гісторыі заходнярус. і ўкр. права (1922—29). З 1925 супрацоўнічаў з бел. час. «Полымя», Ін-там бел. культуры і Бел. АН. У 1928 абараніў кандыдацкую дысертацыю «Генеральная Рада на Гетманшчыне XVII—XVIII ст.», дзе ўпершыню звярнуў увагу на інстытут Рады старшынь і параўнаў яго з Радай паноў ВКЛ, Баярскай думай Масковіі, сенатамі зах.-еўрап. дзяржаў. У пач. 1930-х г. меркаваў напісаць манаграфію пра казацтва на Беларусі ў часы Б.Хмяльніцкага з дадаткам вял. колькасці архіўных матэрыялаў, аднак планы не былі рэалізаваны з-за парт.-ідэалаг. ўціску на навуку. У 1933 у сувязі з пагрозай арышту пакінуў Кіеў, працаваў праф. Нежынскага пед. ін-та. Па абвінавачанні ў «нацыяналізме» звольнены з працы, пераехаў у Казахстан, быў юрыстам Балхашскага прамкамбіната. З 1937 працаваў у Смаленску. У Вял. Айч. вайну ў Кіеве, кіраўнік спраў вышэйшых школ і навук. установ гар. управы, уваходзіў у склад экспертнай камісіі па ўкр. эмблематыцы, адначасова дэкан юрыд. ф-та аднаўленага Кіеўскага ун-та. З 1943 у эміграцыі, з 1949 у ЗША. У 1950-я г. працаваў у фондзе Форда па даследчыцкай праграме вывучэння СССР пры Калумбійскім ун-це, потым у Б-цы Кангрэса ў Вашынгтоне. Супрацоўнічаў з Укр. навук. т-вам імя Т.Шаўчэнкі і Бел. ін-там навукі і мастацтва (ЗША). Даследаваў гісторыю права Беларусі і Украіны 16—18 ст., казацтва ў ВКЛ, гістарыяграфію. У сваіх працах пазбег псеўдапатрыятычных перабольшанняў і спрашчэнняў, аб'яднаў крыніцазнаўчы падыход і канцэптуальны аналіз пытання.

*Тв.*: Казацтва на Беларусі: (Гіст.-юрыд. нарыс) // Полымя. 1927. № 1; Беларускае казацтва ў украінскай гістарыяграфіі //



Там жа. 1929. № 6; Генеральна Рада на Гетьманщині XVII—XVIII ст. Київ, 1929; Казацка-сялянскія войны на Беларусі ў XVII стал. ў характарыстыцы акад. М.Грушэўскага // Сав. краіна. 1931. № 5; Лекції з історії українського права. Мюнхен, 1947; Огляд історії філософії права. Ч. 1. Мюнхен, 1948; The Law of the Grand Duchy of Lithuania: Background and Bibliography. New York, 1953; Ukrainian Society and the Goverment, 1648—1781. Münich, 1978; Парлямэнт беларускай зямлі; Пра «цывілізацыйныя асновы» беларускага гістарычнага працэсу // З гісторыяй на «Вы»: артыкулы, дакументы, успаміны. Мн., 1994. Вып. 3; Моя академічна праця в Україні. Львів, 1995; Між Заходом і Сходом // Розбудова держави. Київ. 1997. № 7—8; Беларускія сувязі; Бітва пад Воршаю 1514 году // Полымя. 2003. № 3.

*Літ.*: Падох Я. Лев Окіншевич — видатний історик державного права України-Гетьманщини XVII—XVIII ст. Нью-Йорк, Мюнхен, 1985 (змешчана бібліяграфія прац А.); Партноў А. Леў Акіншэвіч — гісторык украінскі і беларускі // Бел. гіст. агляд. 1999. Сш. 1—2.

***Марыя Аўсяная, Валерый Пазднякоў.***

**аколіца**, тып сельскага паселішча ў ВКЛ з 2-й пал. 16 ст. Узнікла ў выніку *валочнай памеры* як паселішча дробнай шляхты, якая не мела прыгонных і займалася сельскай гаспадаркай. У маёмасных адносінах дробная шляхта амаль не адрознівалася ад сялян, але належала да прывілеяванага саслоўя і таму сялілася асобна і называлася *ваколічная шляхта*. А. была найбольш пашырана на З Беларусі. У 2-й пал. 16 ст. ў Гарадзенскім пав. існавала 37 А. У канцы 18 ст. ў Мінскай губ. налічвалася 70 А. Назвы А. маглі ўтварацца ад прозвішча ўладальніка, ад прозвішчаў тых родаў, якія іх засялялі. З цягам часу колькасць дамоў павялічвалася, некаторыя А. сталі вёскамі. Для А. была характэрна бессістэмная забудова. Многія населеныя пункты захавалі назву А. да цяперашняга часу (вёскі Аколіца ў Мінскім, Бабруйскім і Карэліцкім р-нах, в. Аколіца Рудава ў Браслаўскім р-не і інш.).

***Васіль Мялешка, Валерый Шаблюк.***

**акольнічы**, службовая асоба ў Смаленскай зямлі ў 15—пач. 16 ст. Адначасова было некалькі А., якія займалі высокае становішча адразу пасля смаленскіх намесніка і епіскапа. Уваходзілі ў адм.-судовую раду пры намесніку. Дробныя судовыя спрэчкі разбіралі самастойна. Пры дапамозе сваіх слуг і падвойскіх прымушалі мяшчан выконваць розныя павіннасці, збіралі падаткі. Выконвалі некат. паліцэйскія функцыі (напр., сачылі за мерамі на таргу).

*Літ.*: Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]. С. 837—840.

***Валерый Пазднякоў.***

**Аксяновіч-Старушыч** Ігнацій, гл. *Ігнацій*.

**актавыя кнігі**, спецыяльныя кнігі ў судах ВКЛ у 16—18 ст. Афіцыйна ўведзены Статутам ВКЛ 1529 (раздзел 6, артыкул 3), дзе сцвярджалася, што пры кожным судзе павінны быць пісары: «а писари присяжные... мають... то все пописывати и к тому вин наших тэж вин иных и доходов панов своих смотрети». Практыка вядзення гэтых запісаў у 1-й пал. 16 ст. сведчыць, што ўсе запісы вяліся ў адной кнізе па чарзе, паводле часу паступлення спраў у суд, незалежна ад іх зместу. Паводле Статута ВКЛ 1566, у дзяржаве былі зацверджаны *земскі суд* і *гродскі суд*. Адпаведна А.к. вяліся ў кожным з іх. Рашэнні *падкаморскага суда* запісваліся ў кнігі земскага суда. Ад гэтага часу А.к. падзяляюцца на 3 групы ў залежнасці ад іх зместу: паточныя, запісавыя і дэкрэтавыя кнігі. У паточныя кнігі запісвалі скаргі істцоў, адказы, пярэчанні і пратэсты адказчыкаў, звесткі, што адносіліся да забеспячэння доказаў (агляд пабояў, допыты сведак), данясенні суд. чыноўнікаў (віжа, вознага, генерала). Сюды ж запісвалі скаргі і пратэсты на дзеянні службовых асоб. У запісавыя кнігі ўносілі акты прававога характару, якія неабходна было натарыяльна засведчыць дзярж. органам (тастаменты, дагаворы аб куплі-продажы маёнткаў, падараванні, пагадненні аб арэндзе ў розных яе відах, пазыкі, розныя здзелкі і інш., а таксама афіц. дакументы — прывілеі, граматы вял. князёў, пастановы соймаў ВКЛ і павятовых соймікаў). У дэкрэтавыя кнігі запісвалі толькі суд. пастановы і некаторыя працэсуальныя дзеянні суда і бакоў. У Статуце ВКЛ 1588 больш дэталёва вызначаны парадак вядзення А.к. і іх захавання (раздзел 4, артыкул 13), пра што сведчыць і сама назва артыкула: «О книгах земских и гродских, где мають быти хованы,и о местцу на отправованье судов земских и теж о выдаванью кому потреба укажеть выписов албо видимусов». А.к. захоўваліся ў бяспечным месцы: «У скрыню моцную за трима замками, от которых один ключ будеть у судьи, другой — у подсудка, а третий — у писаря, и печатьми своими запечатати мають». Адкрываліся кнігі за 3 дні да пачатку суд. сесіі, каб зацікаўленыя асобы маглі ўнесці адпаведныя запісы або атрымаць неабходныя копіі. Кожны, хто заплаціў вызначаную пошліну, мог унесці любы запіс. У залежнасці ад віду судоў А.к. былі: гродскія (замкавыя), земскія, трыбунальскія, магістрацкія, а потым і падкаморскія. У практыцы канцылярый гродскіх і земскіх судоў 16—18 ст. яны называліся гродскімі і земскімі актамі. У судах і архівах Рас. імперыі А.к. называлі «старажытныя актавыя кнігі». У наш час яны атрымалі назву А.к. Захоўваюцца А.к. ў архівах (у Беларусі — у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі).

*Літ.*: Горбачевский Н. Каталог древним актовым книгам губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской, также книгам некоторых судов губерний Могилевской и Смоленской, хранящимся ныне в Центральном архиве в Вильне. Вильна, 1872; [Sprogis I.] Inwentarz do akt Archiwum Akt Dawnych. Wilno, 1929; Исаевич Я.Д. Гродские и земские акты — важнейший источник по истории аграрных отношений в Речи Посполитой в XVI—XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1961 г. Рига, 1963.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**«Акты Аляксандра, караля польскага, вялікага князя літоўскага»** [«Acta Aleksandra, króla polskiego, wielkiego księcia litewskiego (1501—1506)»], збор актаў *Аляксандра*, выдадзены ў Кракаве ў 1927. Дакументы асвятляюць узаемаадносіны Польшчы з ВКЛ, Маскоўскай Руссю, Нямецкім ордэнам, Рымам, Валахіяй,

«Свяшчэннай Рымскай імперыяй». Збор матэрыялаў пачаўся ў 1870-я г. пад кіраўніцтвам Гіст. камісіі Польскай АН. У падрыхтоўцы зборніка ўдзельнічалі І.Шуйскі, А.Сакалоўскі, у пач. 20 ст. Ф.Бостэль, з 1909 Ф.Папэ. Выхад у свет затрыманы ў сувязі з 1-й сусв. вайной. Уключае матэрыялы, выяўленыя ва ўступным томе *«Актаў Таміцкага»*, у «Рэгестах» Яна Ласкага (Гал. архіў стараж. актаў у Варшаве), прускія дакументы (Кёнігсбергскі, Гданьскі і Фраўенбургскі архівы), акты Кароннай метрыкі (выпіскі А.Павінскага і інш. копіі і арыгіналы). Большасць актаў на лац., частка на ням. і старабел. мовах без перакладу. Адлюстраваны пытанні ваен. дапамогі Польшчы ВКЛ, дзярж. і царк.-рэліг. уній, змешчаны



праекты мірных дагавораў, польскія пасольскія інструкцыі, перапіска польскіх і літоўскіх паноў-рады, ухвалы і інш. дакументы соймаў. Упершыню апублікаваны аўтэнтычны тэкст прывілея Уладзіслава III, выдадзены ў 1443 праваслаўнаму бел. і ўкр. насельніцтву Кіеўскай мітраполіі пасля *Фларэнційскай уніі 1439*, апісанне гаспадарскага скарбца, складзенае ў Лідзе ў 1506 пасля смерці Аляксандра. Ёсць звесткі пра *Клецкую бітву 1506*.

***Георгій Галенчанка.***

**Акты Віленскай камісіі**, Акты Віленскай археаграфічнай камісіі (АВК, АВАК), серыя публікацый дакументаў па гісторыі Беларусі, Украіны і Літвы 14—19 ст. (т. 1—39, Вільня, 1865—1915). Назва серыі мянялася: «Акты, издаваемые археографическою комиссиею, высочайше учрежденною в Вильне» (т. 1—2), «Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею» (т. 3—19), «Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов» (т. 20—39). Мела на мэце сцвердзіць справядлівасць далучэння Беларусі і Літвы да Рас. імперыі, прапагандаваць ідэю пра «спрадвечна рускі» характар ВКЛ. Змяшчае дакументы па паліт., сац.-эканам., царкоўнай гісторыі, этнаграфіі, пра канфесіянальную сітуацыю ў Беларусі і Літве, стан прававой культуры, побыт насельніцтва. Большасць крыніц публікавалася ўпершыню. Надрукаваны матэрыялы гарадзенскага, берасцейскага і слонімскага земскіх судоў, гарадзенскага, менскага і берасцейскага гродскіх судоў, магістратаў Берасця, Кобрына, Камянца, Магілёва, Вільні, (т. 1—6, 17, 21, 22, 36, 39), акты і дэкрэты Трыбунала ВКЛ за 1398—1794 (т. 12, 13, 15), акты копных судоў (т. 18). Асобныя тамы прысвечаны гісторыі царквы (т. 16, 33). Змешчаны інвентары феад. уладанняў са звесткамі па гісторыі населеных пунктаў, с.-г. вытворчасці, павіннасцях сельскага насельніцтва, яго забяспечанасці асн. сродкамі вытворчасці і інш. (т. 14, 25, 35, 38). Асобныя тамы прысвечаны становішчу яўрэяў (т. 28, 29), татараў (т. 31) у ВКЛ. Уключаны матэрыялы пра вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 (т. 34), вайну 1812 (т. 37). Падаюцца звесткі пра развіццё прам-сці, сельскай гаспадаркі, культуры, узровень жыцця розных катэгорый насельніцтва, распаўсюджанне бел. мовы на тэр. ВКЛ. Адзіныя правілы выдання дакументаў адсутнічалі, матэрыялы рыхтавалі часам малакваліфікаваныя даследчыкі, некаторыя дакументы значна адрозніваюцца ад арыгіналу. Старабеларуская мова шэрагу дакументаў не захоўвалася, падганялася пад правілы рус. мовы. Тэкст мае шмат друкарскіх памылак, загалоўкі і каментарыі, асабліва да дакументаў на польскай і лац. мовах, не заўсёды адпавядаюць зместу арыгінала. Нягледзячы на недахопы, серыя мае вял. каштоўнасць як крыніца па гісторыі ВКЛ. Надрукаваныя дакументы цяпер зберагаюцца ў Дзярж. гіст. архіве Літвы і Нац. гіст. архіве Беларусі ў Мінску.

*Літ*:. Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 64—147.

***Валянцін Голубеў.***

**«Акты віленскіх цэхаў»** («Akty cechów wileńskich»), зборнік дакументаў па гісторыі прафесійна-вытворчых карпарацый у Вільні ў 1495—1700. Падрыхтаваны Г.*Лаўмянскім* і выдадзены ў Вільні ў 1939 напярэдадні 2-й сусв. вайны. Значная частка тыражу была знішчана. У зборніку змешчана 487 актаў на лац., старабел., польск. мовах, выяўленых у архівах Варшавы, Кракава, Вільні, у розных археаграфічных выданнях. У выданне ўключаны прававыя акты: гаспадарскія прывілеі, выпіскі з соймавых пастаноў, суд. выракі, звязаныя з арганізацыяй, зацвярджэннем і дзейнасцю віленскіх цэхаў, рамесных і мядовых брацтваў, розных прафесійных карпарацый — лекараў, купцоў, членаў віленскага магістрата і інш. Матэрыялы зборніка з'яўляюцца важнай крыніцай для вывучэння развіцця рамяства ў Вільні, сац.-эканам. жыцця, цэхавай дзейнасці, культурных і сац.-эканам. сувязей бел. мяшчан, купцоў, рамеснікаў з інш. жыхарамі Вільні (літоўцамі, палякамі, немцамі і інш.). Ёсць звесткі пра ўзаемаадносіны цэхаў, купецкіх аб'яднанняў з гар. радай, іншымі адм. органамі, вярхоўнай уладай, феадаламі, духавенствам, пра сац.-класавыя супярэчнасці і сац. пратэст. Найб. цікавыя матэрыялы тычацца статутаў цэхаў і брацтваў, апісанняў «штук да робеня», рамеснай тэхналогіі. Дакументы сведчаць, што многія цэхі Вільні аб'ядноўвалі бел. правасл. рамеснікаў. Зборнік падрыхтаваны на высокім археаграфічным узроўні, дакументы, як правіла, надрукаваны па арыгіналах. Адзначаны копіі, папярэднія публікацыі, апублікаваныя рэгесты. У археагр. каментарыях прыводзяцца некаторыя метралагічныя і нумізматычныя звесткі.

***Георгій Галенчанка.***

**«Акты гістарычныя»** («Акты исторические, относящиеся к России, извлеченные из иностранных архивов и библиотек А.И.Тургеневым»; 2-і тытул «Historica Russiae monumenta ex antiquis exterarum gentium archivis et bibliothecis deprompta ab A.I.Turgenevio»), зборнік дакументаў па паліт. і царкоўна-рэліг. гісторыі Расіі, Беларусі, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы за 1075—1719 (т. 1—2. СПб., 1841—42). Падрыхтаваны гісторыкам і грамадскім дзеячам А.І.Тургеневым пры падтрымцы Археаграфічнай камісіі ў Пецярбургу. Матэрыялы выяўлены ў Ватыканскім тайным архіве і рымскіх б-ках (т. 1), архівах і б-ках Італіі, Англіі, Францыі (т. 2), надрукаваны ў храналагічным парадку на лац., італьян. і польск. мовах без перакладу. Надрукаваны выпіскі з актаў, рэскрыптаў, дыпламат. карэспандэнцыі еўрап. дзяржаў, звесткі, што дастаўляліся дыпламатамі, падарожнікамі, пасланнікамі рымскай курыі. У 1848 па ініцыятыве міністра нар. асветы С.Уварава Археаграфічная камісія выдала «Дадаткі да Актаў гістарычных...» (уключаны дакументы з архіваў аўстрыйскай Галіцыі, Торуні, Вісмарка, Брэмена, Гамбурга, Кёнігсберга і інш.). У «А.г.» і «Дадатках...» змешчаны дакументы, што асвятляюць палітыку рымскіх пап і некаторых еўрапейскіх дзяржаў ва Усх. Еўропе (пасольствы С.Герберштэйна, А.Пасевіна, інструкцыі і данясенні папскіх нунцыяў, пасланні Гедзіміну, Ягайлу, Вітаўту, перапіска з Іванам IV, Стафанам Баторыем і інш.), праекты і арганізацыю царкоўна-рэліг. уніі, адносіны Расіі, Польшчы, ВКЛ з еўрапейскімі дварамі, звесткі пра *Інфлянцкую вайну 1558—82*, сял.-казацкія паўстанні сярэдзіны 17 ст., дыпламат. перагаворы Польшчы і ВКЛ з Расіяй у 16—17 ст., антыкаталіцкія выступленні, у т.л. *Віцебскае паўстанне 1623*. Выданне не даведзена да канца, каштоўныя матэрыялы 18 ст. часткова захаваліся ў архіве братоў Тургеневых.

*Літ.*: Срезневский И.И. Александр Иванович Тургенев: Несколько о нем припоминаний, 1785—1845 // Русская старина. 1875. Кн. 3—4.

***Георгій Галенчанка.***



**«Акты Заходняй Расіі»** («Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею»), зборнік дакументаў па гісторыі Беларусі, Украіны і Літвы 14—17 ст. (т. 1—5. СПб., 1846—53). Складальнік і рэдактар І.І.*Грыгаровіч* (т. 1—4). У зборнік уключана каля 2 тыс. дакументаў са сховішчаў Пецярбурга, Масквы, Мсціслава, Магілёва, Полацка на бел. і укр. мовах. Матэрыялы размешчаны паводле храналагічна-тэматычнага прынцыпу, прыярытэт аддаваўся паліт. і царк. тэматыцы. У т. 1 змешчаны комплекс дакументаў пра знешнепаліт. становішча ВКЛ у 14—пач. 16 ст. (войны з Маскоўскай дзяржавай за землі Севершчыны, Вярхоўскія княствы, Смаленшчыну, дыпламат. зносіны з Польшчай, Лівоніяй, Малдовай, Крымскім ханствам, Ноўгарадам, Псковам). Надрукаваны помнікі феад. права 14—15 ст.: Вісліцкі статут Казіміра III 1347, Кракаўскі і Вартаўскі статуты, *Судзебнік 1468*. Уключаны велікакняжацкія прывілеі Полацкай (т. 2, № 70) і Віцебскай (т. 1, № 204) землям, прывілеі і іх пацвярджэнні Полацку, Менску, Магілёву, Берасцю, Віцебску, Навагародку, Ваўкавыску на магдэбургскае права (т. 1, № 159, 165; т. 2, № 13, 61, 71, 73; т. 3, № 28, 77; т. 4 № 118), даравальныя граматы (фундушы) царкоўным установам. Надрукаваны тэкст *«Уставы на валокі» 1557*, матэрыялы пра *Інфлянцкую вайну 1558—82* (т. 3), дакументы пра становішча правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай да і пасля Берасцейскай уніі 1596, пра інтэрвенцыю Рэчы Паспалітай у Расію ў пач. 17 ст. (т. 4), універсалы і дарчыя граматы Б.Хмяльніцкага, дакументы пра ваенныя дзеянні казакоў супраць крымскіх татараў у 17 ст. (т. 5). Кожны том мае археаграфічныя заўвагі, генеалагічныя табліцы і матэрыялы да радаводаў удзельных князёў і буйных магнацкіх родаў.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 28—40.

***Павел Лойка.***

**«Акты кангрэгацыі прапаганды веры»** («Acta s. congregationis de propaganda fide ecclesiam catholicam Ucrainae et Bielarusjae spectantia»), серыя публікацый дакументаў па гісторыі царквы. Выдадзены базыльянскім ордэнам пад рэдакцыяй А.Г.Вялікага ў Рыме ў 4 тамах (1953—55). Кангрэгацыя прапаганды веры — створаны папам Грыгорыем XIII у 1622 орган, які вызначаў асн. кірункі і каардынаваў місіянерскую дзейнасць курыі. Яна кіравала уніяцкай царквой, а таксама кантралявала місіянерскую дзейнасць каталіцкіх ордэнаў на тэр. Беларусі і Украіны. Архіў кангрэгацыі знаходзіцца ў Ватыканскім палацы. «А.к.п.в.» змяшчаюць пратаколы пасяджэнняў кангрэгацыі, папскія пасланні да нунцыяў і інш. асоб, пратаколы мясц. кангрэгацый, на якіх прымаліся рашэнні пра дзейнасць уніяцкай царквы на Беларусі і Украіне. З'яўляюцца крыніцай для вывучэння палітыкі рымскай курыі на Беларусі, антыуніяцкіх рухаў, сял.-казацкіх паўстанняў, сац.-паліт., эканам., ідэалаг. дзейнасці уніятаў у розныя гіст. перыяды. Археаграфічныя і гіст. каментарыі асвятляюць дзейнасць уніяцкага і каталіцкага духавенства з пазіцый рымскай курыі.

***Георгій Галенчанка.***

**«Акты Літоўскай Метрыкі»** («Акты Литовской Метрики»), зборнік дакументаў з *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага* за 1413—1507. Выдадзены Ф.І.*Леантовічам* у Варшаве ў адным томе з двух выпускаў (1896—97). Уключана больш за 750 дакументаў, выяўленых у 66 кнігах-копіях, што захоўваліся ў Варшаўскім архіве. Матэрыялы прысвечаны пераважна Беларусі і Літве, часткова Украіне і Падляшшу. Дакументы размешчаны ў храналагічным парадку, большасць з іх асвятляе сац.-эканам. і сац.-прававыя адносіны: гаспадарскія прывілеі на зямельную ўласнасць, прыгонных сялян, судовыя выракі, дагаворы куплі-продажу маёнткаў, арэнды, пазыкі, прывілеі на корчмы (прыватным асобам, цэрквам, касцёлам), мыта, дзярж. пасады, войтаўства, на вызваленне ад падаткаў і павіннасцей, арганізацыю цэхавых карпарацый, адбудову замкаў, гаспадарскія лісты да ўраднікаў. З публічна-прававых актаў змешчаны агульназемскія прывілеі 1413, 1434, 1447, абласныя Валынскай (1501) і Жамойцкай (1507) землям, магдэбургскія граматы Дарагічыну (1498), Мельніку (1501), Высокаму (1503). Апублікаваны граматы князёў Кобрынскіх, Мсціслаўскіх, звесткі пра маёмасны і сямейны статус, генеалагічныя сувязі феад. знаці. Археаграфічны ўзровень публікацый невысокі, праграма і мэта выдання не вызначаны. Тэксты праўленыя, лац. акты не перакладзены, загалоўкі не заўсёды дакладныя. Акты надрукаваны паводле копій, хоць больш дакладныя спісы і нават арыгіналы захоўваліся ў Маскоўскім гал. архіве Мін-ва замежных спраў.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М.,1973. С. 229—230.

***Георгій Галенчанка.***

**«Акты Літоўска-Рускай дзяржавы»** («Акты Литовско-Русского государства»), зборнік дакументаў па сац.-эканам. гісторыі ВКЛ 14—16 ст. Выдадзены М.В.*Доўнар-Запольскім* у Маскве (вып. 1, 1899; т. 2, 1897). Змяшчае дакументы з *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага*: прывілеі гарадам на магдэбургскае права (Берасцю 15.8.1390; пацвярджэнні 1408 і 1440 Высокаму, Дарагічыну, Літавіжу і інш.), велікакняжацкія граматы на зямельныя падараванні, інвентарныя вопісы (Мядзельскай вол. 1545, Радашковіч 1549, Аршанскага замка 1560, Берасцейскага стараства 1566 і інш.), матэрыялы Віленскіх 1563 і 1565, Берасцейскага 1566, Гарадзенскіх 1567 і 1568, Люблінскага 1569 соймаў, апісанне граніцы ВКЛ з Вял. княствам Маскоўскім 1523, матэрыялы пра зборы сярэбшчыны, попіс гарадоў ВКЛ з указаннем колькасці пастаўленых імі на вайну воінаў (каля 1513), кантракты на арэнду велікакняжацкіх мытняў, корчмаў, прыходна-расходныя кнігі велікакняжацкіх пісараў, уставы сялянам гаспадарскіх уладанняў. Дакументы надрукаваны на старабел. мове, некаторыя на лацінскай. Выдавец меў на мэце не толькі перадаць змест тэксту, але і асаблівасці правапісу.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 239—243.

***Валянцін Голубеў.***

**«Акты Паўднёвай і Заходняй Расіі»** («Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссиею»), серыйнае шматтомнае выданне па паліт., царк. і сац.-эканам. гісторыі Украіны і Беларусі з 1361 па 1678 (т. 1—15. СПб., 1861—92). Выдаваліся пад рэдакцыяй М.І.Кастамарава і Г.Ф.Карпава. Змяшчаюць актавыя і нарматыўныя крыніцы. Большасць апублікаваных дакументаў выяўлена ў Маскоўскім гал. архіве Мін-ва замежных спраў, у кнігах Метрыкі ВКЛ, архіве уніяцкіх мітрапалітаў, Кіеўскай казённай палаце і Кіеўскай духоўнай



акадэміі, Публічнай б-цы ў Пецярбургу, б-цы Асалінскіх у Львове і інш. зборах. Матэрыялы, што непасрэдна або ўскосна асвятляюць гісторыю Беларусі, змешчаны пераважна ў т. 1—3, 14. Гэта акты, якія вызначаюць сац.-эканам. статус розных сац. слаёў і прыватных асоб (прывілеі на зямельную ўласнасць, на сялян, таргі, кірмашы, корчмы, мыта; суд. выракі; арэндныя, купчыя, падзельныя лісты і інш.), прывілеі на адм. пасады, дакументы пра становішча правасл. і уніяцкай царквы, грамадска-паліт. і асветніцкую дзейнасць брацтваў, сял.-казацкія паўстанні (у т. л. паўстанне С.Налівайкі), войны сярэдзіны 17 ст. і інш. Асобную групу складаюць лісты вял. князёў ВКЛ пра падаткі і павіннасці, у т.л. жыхарам Барысава пра цівунскія даходы (1396), прывілеі гарадам і мястэчкам на права бяспошліннага гандлю, самакіраванне (Оршы 1551, Крычаву 1570, Дзісне 1569, Віцебску 1589, Магілёву 1589). У т. 14 «Далучэнне Беларусі (1654—1655)» (дадатак да т. 3) змешчаны матэрыялы пра ваенныя дзеянні на тэр. Беларусі (Магілёў, Стары Быхаў, ваенна-паліт. аперацыі К.Паклонскага, гетмана І.Залатарэнкі), дыпламат. і неафіц. зносіны з царскім урадам, яго палітыку на Беларусі. Сустракаюцца даныя пра міграцыю насельніцтва, перасяленцаў у Расію і на Украіну («на Ніз»), удзел беларусаў у запарожскім войску і інш. Археаграфічны і метадалагічны ўзровень выдання невысокі: дакументы размешчаны па перыядах праўлення каралёў польскіх і вял. князёў літоўскіх, адсутнічаюць каментарыі. Большасць дакументаў на старабел. і стараўкр. мовах.

*Літ.*: Карпов Г. Критический обзор разработки главных русских источников, до истории Малороссии относящихся, за время: 8-генваря 1654—30-е мая 1672 года. М., 1870; Крип'якевич І. Археографічні праці Миколи Костомарова // Зап. Наукового товариства ім. Шевченка. Львів, 1918. Т. 126, 127; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 203—206; Ковальский Н.П. Источниковедение и археография истории Украины XVI—первой половины XVII в. Ч. 2. Днепропетровск, 1978.

***Георгій Галенчанка.***

**«Акты паўстання Касцюшкі»** («Akty powstania Kościuszki»), зборнік дакументаў *паўстання 1794* у Польшчы, Беларусі і Літве. Выдадзены ў 3 тамах (т. 1—2, Кракаў, 1918, пад рэдакцыяй Ш.Аскеназі і У.Дзванкоўскага; т. 3, Вроцлаў і Кракаў, 1955, пад рэдакцыяй Дзванкоўскага, Э.Кіпы, Р.Марцінека). Аснову выдання складаюць пастановы Часовай заступчай рады, Найвышэйшай нац. рады, распараджэнні, адозвы і лісты Т.Касцюшкі. 1-ы том пачынаецца прадмовай, напісанай Аскеназі, і ўступам, напісаным Дзванкоўскім. У ім змешчаны: пастанова Часовай заступчай рады ад 19.4.1794, якая абвяшчала пра далучэнне жыхароў Мазавецкага краю і Варшавы да паўстання; пастанова ад 24.3.1794 пра склад Часовай рады, скасаванне ўсіх законаў і пастаноў Гарадзенскага сойма 1793; дакументы пра ўтварэнне новых органаў дзярж. кіравання; адозвы да розных груп насельніцтва Рэчы Паспалітай; пастановы пра камплектаванне войска, утварэнне новых крымінальных судоў, пра падаткі; пратаколы, рэзалюцыі і інш. акты Найвышэйшай нац. рады, што вызначалі парадак утварэння і дзейнасці цэнтр. і мясц. рэв. органаў. Змешчаны адзін з найважнейшых актаў паўстання — *Паланецкі універсал* ад 7.5.1794. Сярод дакументаў — адозва Касцюшкі ад 2.6.1794 да насельніцтва Беларусі і Літвы, у якой ён пісаў: «Землякі і суайчыннікі мае! На вашай нарадзіўся зямлі і ў вялікай любві да сваёй бацькаўшчыны. Адклікаецца ў мяне асаблівая схільнасць да тых, сярод каторых пачыналася маё жыццё». Да Беларусі адносілася і пастанова Найвышэйшай нац. рады пра аднаўленне іерархіі ў правасл. царкве ў адпаведнасці з пастановай *Пінскай кангрэгацыі 1791*. У т. 2 змешчаны пратаколы і рэзалюцыі Найвышэйшай нац. рады з 24.7 да 30.10.1794, дзённікі Часовай заступчай рады з 19.4 да 27.5.1794 і Найвышэйшай нац. рады з 28.5 да 2.11.1794, а таксама пастанова Найвышэйшай нац. рады пра выбранне (пасля таго, як паранены Касцюшка трапіў у палон) вышэйшым начальнікам узбр. сіл паўстання Т.Ваўжэцкага і аб утварэнні вайсковай рады. У т. 3 надрукавана карэспандэнцыя Касцюшкі, пратаколы патэнтаў на рангі ў войску, ваяводскім і павятовым апалчэнні, дадатак да 2-га тома, імянны і геаграфічны паказальнікі да 3 тамоў.

***Язэп Юхо.***

**«Акты рэфармацыйных сінодаў у Польшчы»** («Akta synodów różnowierczych w Polsce»), шматтомнае выданне крыніц па гісторыі Рэфармацыі ў Польшчы і ВКЛ. Выдае з 1966 у Варшаве М.Сіпайла. Ахопліваюць перыяд з 1550 да канца 17 ст., калі рэфармацыйны рух занепаў. Выкарыстаны ўсе кодэксы пратаколаў рэфармацыйных сінодаў, упамінанні пра сіноды ў старадруках. Змяшчаюць таксама матэрыялы, што маюць дачыненне да сінодаў: асобныя акты, карэспандэнцыю, рэляцыі. У т. 1 увайшлі дакументы 1550—59: пратаколы сінодаў пратэстантаў Малой Польшчы, матэрыялы па гісторыі абшчыны «Чэшскіх братоў» у Вял. Польшчы. У т. 2 (1972) увайшлі пратаколы сінодаў 1560—70 кальвінісцкіх абшчын Польшчы і ВКЛ, «Чэшскіх братоў», арыян. У т. 3 (1983) змешчаны пратаколы кальвінісцкіх сінодаў Малапольскай правінцыі і генеральных сінодаў (1571—1632). У т. 4 (1997) змешчаны дакументы кальвінісцкіх сінодаў Велікапольскай правінцыі 1569—1632. Плануецца апублікаваць пратаколы Літоўскай (ахоплівала тэр. Беларусі і Літвы) правінцыі. У дакументах асвятляецца арганізацыйная, царкоўна-рэліг., ідэалаг. дзейнасць рэфармацыйных абшчын, узаемаадносіны розных рэфармацыйных плыней, палітыка вярхоўнай улады ў адносінах да Рэфармацыі, удзел бел.-літоўскіх дзеячаў у грамадска-паліт. жыцці Польшчы і ВКЛ. Выданне выканана на высокім археаграфічным узроўні.

***Людміла Іванова.***

**«Акты Таміцкага»** («Acta Tomiciana»), шматтомнае серыйнае выданне гіст. крыніц 1-й паловы 16 ст., пераважна дыпламат. і паліт. актаў, створаных у каронная канцылярыі часоў Жыгімонта І. Распачата ў 1852 Т.Дзялынскім. Да 1915 выйшла ў Познані 13 тамоў, адноўлена ў 1952 (т. 14—16), у 1966 выйшаў т. 17, выданне працягваецца. Акты атрымалі назву ад прозвішча кракаўскага біскупа, падканцлера П.Таміцкага, які ўзначальваў канцылярыю Жыгімонта І. Стваральнікам збору быў пісар падканцлера, плоцкі і кракаўскі канонік С.Гурскі, які ў 1530—60-я г. зняў копіі і ўпарадкаваў дакументы за 1506—48 у храналагічным парадку. Адзін з першых збораў актаў Гурскі склаў для М.Радзівіла Чорнага (збор захоўваўся ў радзівілаўска-сапегавым архіве). Апошняя, трэцяя рэдакцыя збору налічвае 24 тамы, захоўваецца ў Нац. б-цы ў Варшаве. Большасць дакументаў (і каментарыі да асобных тамоў) на лац. мове, частка матэрыялаў на польск., ням. і старабел. мовах. У зборы змешчаны дыпламат. пасланні, пасольскія інструкцыі,



перапіска польскіх каралёў і вял. князёў літоўскіх з магнатамі Радзівіламі, Сапегамі, Гаштольдамі, вял. маскоўскімі князямі. Змешчаны афіц. выступленні, рэляцыі гаспадарскіх ураднікаў, паліт. і царк. дзеячаў. У т. 14 надрукаваны копіі каралеўскіх прывілеяў 1532, выдадзеных Ф.Скарыне.

*Літ.*: Ковальский Н.П. Источниковедение истории Украины XVI—первой половины XVII века. Ч. 3. Днепропетровск, 1978; Marciniak R. Ze studiów nad zbiorem *Acta Tomiciana*: Dzieje zwodu sapieżyńsko-radziwiłłowskiego w okresie Oświecenia // Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej. Kórnik, 1980. Z. 16; Яго ж. *Acta Tomiciana* w kulturze politycznej Polski okresu odrodzenia. Warszawa; Poznań, 1983.

***Георгій Галенчанка.***

**«Акты уніі Польшчы з Літвою 1385—1791»** («Akta unii Polski z Litwą, 1385—1791»), зборнік дакументаў па гісторыі уніі паміж Польскім каралеўствам і ВКЛ за перыяд з 1385 да 1791. Складзены С.*Кутшэбам* і У.*Сямковічам*, выдадзены Польск. АН і Варшаўскім навук. т-вам (Кракаў,1932). Уключае 177 дакументаў у асн. частцы і 11 у дадатку на бел., польск. і лац. мовах. Першы са змешчаных дакументаў — акт Крэўскай уніі 14.8.1385, апошні — прынятая Чатырохгадовым соймам 1788—92 канстытуцыя 20.10.1791 «Узаемнае заручэнне абодвух народаў». Ва ўступным артыкуле характарызуюцца арыгінальныя дакументы і архівы, у якіх яны захоўваліся, копіі тых дакументаў, што не захаваліся, даецца крыніцазнаўчая характарыстыка дакументаў, прыводзіцца л-ра, дзе акты уніі змяшчаліся раней, а таксама пералік усіх апублікаваных актаў і інш. дакументаў, што ўтрымліваюць звесткі аб практычных захадах па здзяйсненні дзярж. уніі. Выданне мае таксама дадаткі і паказальнікі. Зборнік адметны паўнатой, у ім змешчаны акты ўсіх уній паміж дзвюма дзяржавамі, а таксама шмат дадатковых дакументаў, якіх няма ў іншых выданнях. Археаграфічны ўзровень выдання ўзорны.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Акцябрскі,** гарадскі пасёлак, цэнтр Акцябрскага р-на Гомельскай вобл. Рэспублікі Беларусь, гл. ў арт. *Рудыя Белкі*.

**алебарда** (італьян. alebarda, франц. hallebarde, ням. Aalbarte ці Hallebarte ад Aalm дрэўка + Barte сякера), від колючасякучай дрэўкавай зброі. Была спалучэннем кап'я, сякеры і крука, прызначанага для сцягвання кавалерыстаў з каня. З'явілася ў Еўропе ў канцы 13 ст., у ВКЛ — магчыма, у 15 ст. (упамінаецца з 1-й пал. 16 ст.). Першапачаткова была ў ВКЛ зброяй наёмных драбаў (пехацінцаў). Для феад. апалчэння ВКЛ не была характэрна. А. 2-й пал. 16 ст. (?) знойдзены ў р. Нёман у Гродне і ў р. Піна ў Пінску. А. 15 ст. зберагаецца ў Віцебскім абласным краязн. музеі.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы X—канца XVI ст. Мн., 2002.

***Юрась Бохан.***




**Алебарды**: 1 — з Віцебскага абласнога краязнаўчага музея, 15 ст.; 2 — з Гародні, 16 ст.; 3 — з Пінска, 16 ст.

**Александровіч** (Alexandrowicz) Станіслаў (н. 5.4.1931, Вільня), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1972), праф. звычайны (1994). З 1938 сям'я А. жыла ў Луцку, адкуль у 1940 вывезена ў Казахстан. З 1946 у Польшчы. З 1950 вучыўся ў Тарунскім ун-це Мікалая Каперніка, пасля ў Пазнанскім ун-це імя Адама Міцкевіча, які скончыў у 1955 і дзе ў 1958—77 працаваў на кафедры гісторыі народаў СССР. У 1977—87 выкладаў у філіі Варшаўскага ун-та ў Беластоку. Чытаў цыкл лекцый у Гродзенскім ун-це імя Я.Купалы. З 1987 кіраўнік Аддзела гісторыі Усх. Еўропы Ін-та гісторыі і архівістыкі Тарунскага ун-та Мікалая Каперніка. Старшыня Камісіі гіст. геаграфіі пры Камітэце гіст. навук Польскай АН; узначальвае Аддзел гісторыі картаграфіі пры Ін-це навукі і тэхнікі Польскай АН. Аўтар прац па гісторыі мястэчак, рамяства, гандлю ВКЛ 16—17 ст. Даследуе гісторыю картаграфіі Польшчы, Беларусі і Літвы 15—18 ст., ваенную гісторыю ВКЛ; жыццё і дзейнасць Ю.Нарановіча-Наронскага, Т.Макоўскага, М.К.Радзівіла Сіроткі і інш.

*Тв.*: Miasteczka Białorusi i Litwy jako ośrodki handlu w XVI i w I połowie XVII wieku // Rocznik Białostocki. Białystok, 1961. T. 1; Zaludnienie miasteczek Litwy i Białorusi w XVI i pierwszej połowie XVII wieku // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1966. T. 27; Картографические труды Юзефа Нароновича-Нароньского на землях Великого княжества Литовского в середине XVII в. // Археографический ежегодник за 1966 год. М., 1968; Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. N. 7; Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. Poznań, 1971 (2 wyd. Poznań, 1989); Несвижский план Москвы 1611 г. // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; Źródła kartograficzne do wyprawy połockiej Stefana Batorego roku 1579 // Od armii komputowej do narodowej (XVI—XX w.). Toruń, 1998.

*Літ.*: Europa Orientalis. Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność: Studia i materiały ofiarowane Profesorowi Stanisławowi Alexandrowiczowi w 65 rocznicę urodzin. Toruń, 1996 (змешчана бібліяграфія прац А.).

**Александровіч** Ян, беларускі гравёр і разьбяр па шкле 18 ст. Пачынальнік дынастыі гутнікаў і гравёраў па шкле, якія працавалі на Урэцкай мануфактуры Радзівілаў (Любанскі р-н). У 1761—86 адзін з гал. і найб. кваліфікаваных гравіроўшчыкаў і разьбяроў па шкле. Гравіраваў на сталовым посудзе і люстэрках партрэтныя выявы і фігуратыўныя сцэны.

***Мая Яніцкая.***

**Александровічы**, Вітальды-Александровічы, шляхецкі род уласнага герба «Косы». У 1800 у Аўстрыі атрымалі графскі тытул, які прызнаны ў Рас. імперыі (1819, 1824, 1847). Найб. вядомыя:

Канстанцін (?—пасля 1667), гарадзенскі падстолі ў 1643 і войт у 1643—67.

Стафан Яўстафій (?—23.10.1700), гарадзенскі войт з 1669, падкаморы з 1678, маршалак з 1684, кашталян навагародскі з 1698. З 1674 неаднаразова выбіраўся падслом на соймы, прыхільнік Сапегаў.

Міхал (?—пасля 1703), лідскі скарбнік, пісар земскі, харужы з 1701, маршалак з 1704. У 1693—1703 неаднаразова выбіраўся паслом на соймы. Змагаўся супраць гегемоніі Сапегаў у ВКЛ.

Францішак Антоній (?—пасля 1795), сын Лукаша Антонія. Лідскі чашнік прыкладна з 1746, харужы прыкладна з 1769, падкаморы з 1769, маршалак з 1783, кашталян з 1793. Пасол на соймы 1750, 1766, удзельнік Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764.



Герб роду **Александровічаў**.

Д а м і н і к (?—пасля 1791), сын Лукаша Антонія. Служыў у войску, паручнік пяцігорскі, ротмістр гусарскі. Пісар земскі лідскі з 1754, канюшы ВКЛ у 1771—91. Пасол на соймы 1754, 1758, 1761, 1764, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1750, яго маршалак у 1770. Прыхільнік Чартарыйскіх. Удзельнік Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ 1764. Выдаў перакладзеную Ц.Базылікам з лац. мовы на польскую кнігу А.Фрыча-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (Вільня, 1770).

А н т о н і й  Ф е л і ц ы я н (?—8.4.1786), сын Марціна. Абат гебдоўскі з 1777, каронны вял. духоўны пісар з 1778, сакратар Пастаяннай Рады ў 1778—80.

Я н  А л о й з ы (1728—11.9.1781), сын Марціна. Біскуп хелмскі з 1780.

Т а м а ш  В а л я р ' я н (?—29.9.1794), сын Марціна. Пасол у Стамбуле ў 1764—66, кашталян візнаўскі ў 1775—79, маршалак двара караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, чл. Пастаяннай Рады ў 1780—84, падляшскі кашталян у 1779—90 і ваявода ў 1790—94. Падпісаў акт Канстытуцыі 3 мая 1791. Пасля Гарадзенскага сойма 1793 старшыня Вайсковага дэпартамента Пастаяннай Рады і Вайсковай камісіі. Пераклаў з франц. мовы на польскую трагедыю П.Карнеля «Геракл» (1749), ананімную франц. паэму «Клеаміра».

*Валерый Пазднякоў.*

**«Александрыя»**, помнік сусв. літаратуры, прыгодніцкі раман, прысвечаны апісанню жыцця, паходаў і подзвігаў Аляксандра Македонскага. Тэкст твора грунтуецца на белетрызаванай біяграфіі, складзенай у пач. 3 ст. ў Егіпце на грэч. мове. Большасць герояў рамана (персідскі цар Дарый, індыйскі цар Пор, жонка Аляксандра Раксана, яго военачальнікі Антыёх і Пталамей) — рэальныя гіст. асобы, агульная схема паходаў і бітваў адпавядае сапраўднасці. Аднак у цэлым «А.» — мастацкі твор на гіст. тэму, у якім шмат выдуманага, легендарнага і нават казачна-фантастычнага (напр., у апісанні прыгод гал. героя ў Індыі). Усх. славянам твор вядомы ў 3 асн. рэдакцыях: лацінскай (узнікла ў 4 ст.), хранаграфічнай (11—12 ст.) і сербскай (14 ст.). На Беларусі ў 15 ст. быў перакладзены паўд.-слав. варыянт «А.». Непасрэднай крыніцай бел. перакладу лац. рэдакцыі было адно з польскіх друкаваных выданняў 16 ст. Раман бытаваў у розных скарочаных варыянтах, уключаўся ў гіст. зборнікі, хронікі, хранографы (гл. *«Вялікая хроніка»*, *«Хроніка ўсяго свету»*) і ўспрымаўся тагачасным чытачом як праўдзівае і дакладнае адлюстраванне гіст. падзей і рэалій. Асноўныя бел. спісы ўпершыню апублікаваў У.В.Анічэнка ў кн. «Александрыя» (1962).

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**«Александрыя»**. Фрагмент Санкт-Пецярбургскага спіса. 17 ст.

**Алексютовіч** Мікалай Астапавіч (5.2.1921, в. Бахаравічы Ігуменскага пав., цяпер Пухавіцкі р-н—27.4.1967), бел. філосаф. Канд. філас. н. (1955). Скончыў БДУ (1952). З 1952 супрацоўнік Ін-та філасофіі і права АН Беларусі, з 1963 дацэнт Бел. тэхнал. ін-та. Даследаваў гісторыю грамадска-паліт. і філас. думкі, гісторыю атэізму і рэлігіі на Беларусі эпохі сярэдневякоўя. Канд. дысертацыя «Перадавая грамадская і філасофская думка на Беларусі ў 16 ст.» і кн. «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд» (1958) прысвечаны этычным, прававым, эстэт. поглядам Ф.Скарыны, яго ролі ў гісторыі слав. і сусв. культуры. Адзін з першых даў навук. аналіз светапогляду Скарыны, вызначыў яго характэрныя рысы — гуманізм і рацыяналізм. Вывучаў асветніцкую дзейнасць, літ. творчасць С.Буднага, К.Лышчынскага, К.Бекеша, С.Лавейкі, Ф.Касога, Л.Зізанія і інш. Адзін са складальнікаў і аўтараў кн. «З гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі» (1962), якая ўвяла ў навук. ужытак творы бел. мысліцеляў 16—18 ст.

*Тв.:* Светапогляд Ф.Скарыны // 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968; Гуманистические идеи в Белоруссии: Скорина и его последователи // История философии в СССР. М., 1968. Т. 1; Францыск Скарына // Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968; З глыбінь стагоддзяў: Беларускі філосаф К.Лышчынскі // Полымя. 1966. № 1; А дзе ж ісціна аб'ектыўная? // Там жа. № 5; Імя яго гучыць у стагоддзях // Там жа. 1967. № 7.

*Марат Батвіннік.*

**Алелькавічы**, С л у ц к і я, княжацкі род герба «Пагоня», галіна *Гедзімінавічаў*. Родапачынальнік — Алелька (Аляк-

сандр), сын *Уладзіміра Альгердавіча*. Некалькі разоў прэтэндавалі на трон ВКЛ. Вызнавалі праваслаўе, неаднаразова рабілі наданні цэрквам Слуцка і Кіева-Пячэрскай лаўры. Найб. вядомыя:

Алелька Уладзіміравіч (Аляксандр Уладзіміравіч; ?—пасля 1.2.1455), сын Уладзіміра Альгердавіча. Пасля смерці бацькі валодаў Слуцкім і Капыльскім княствамі. У пач. 15 ст. атрымаў ад вял. кн. Вітаўта Кіеўскае княства за падтрымку ў барацьбе супраць Свідрыгайлы, але да 1422 быў зняты (як кіеўскі князь упамінаецца ў 1408—11). У 1411 выдаў прывілей Кіеўскаму кляштару дамініканцаў. У 1417 дзякуючы Вітаўту ажаніўся з яго ўнучкай Настассяй, дачкой вял. князя маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча і Соф'і Вітаўтаўны. Удзельнічаў у заключэнні *Мельнскага міру 1422*, у 1428 — у паходзе Вітаўта на Ноўгарад. Пасля смерці Вітаўта (1430) прэтэндаваў на трон ВКЛ. Падпісаў як сведка перамір'е вял. кн. Свідрыгайлы з Нямецкім ордэнам 19.6.1431. У час *феадальнай вайны 1432—39* спачатку быў на баку Свідрыгайлы, пасля — Жыгімонта Кейстутавіча, якому дапамагаў у Ашмянскай бітве 1432, сведка яго дагавораў з Польшчай 15.10.1432 і 20.1.1433, потым зноў Свідрыгайлы. Жыгімонт, умацаваўшыся на троне, у 1433 зняволіў Алельку ў Кернаве, а яго жонку і дзяцей — ва Уцене. Пасля смерці Жыгімонта (1440) зноў прэтэндаваў на трон. Новаабраны вял. кн. Казімір у 1440 перадаў Алельку Кіеўскае княства, потым г. Асцёр. Алелька выдаў уніяцкаму мітрапаліту кіеўскаму *Ісідору* прывілей аб недатыкальнасці яго ўладанняў і суд. прэрагатыў, рабіў наданні Лаўрышаўскаму манастыру і Слуцкаму касцёлу (1452). Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Адна яго дачка была замужам за кн. Ю.Ф.Гальшанскім, другая, Еўдакія, — за малдаўскім гаспадаром Стафанам Вялікім (шлюб адбыўся ў 1464), трэцяя, Фядора (Феадосія), — за кн. Сямёнам Юр'евічам Патрыкеевым у Маскве. Меў сыноў Сямёна, Міхаіла і, магчыма, Аляксандра, які ўпамінаецца ў 1454, калі паступіў ў Кракаўскі ун-т.



Князі **Алелькавічы**:
Аляксандр Уладзіміравіч (Алелька), Юрый Юр'евіч (?—1586), Ян Сямён Юр'евіч, Аляксандр Юр'евіч.
У цэнтры герб Я.К.Астрожскага.
Карціна 18 ст.

Сямён Аляксандравіч (каля 1420, Слуцк—3.12.1470), сын Алелькі Уладзіміравіча. Выхоўваўся пры двары бабулі, Соф'і Вітаўтаўны, у Маскве. У юнацтве быў зняволены вял. кн. Жыгімонтам Кейстутавічам. Пасля смерці яго бацькі вял. кн. Казімір не прызнаў Кіеўскае княства спадчынным удзелам, і Сямён атрымаў яго як велікакняжацкае наданне. У 1451 у Маскве вёў перагаворы з урадам Васіля II. У час канфлікту з Польшчай 1454—55 антыпольская група на чале з Я.Гаштольдам разглядала Сямёна як кандыдата на трон ВКЛ. Кіеўскі князь устанавіў кантакты з крымскім ханам Сеід-Ахматам і даў яму прытулак у Кіеве пасля паражэння таго ад Хаджы-Гірэя. Паводле заключанага з Казімірам дагавора, Сямён захаваў у валоданні Кіеў, але толькі як велікакняжацкі намеснік. У 1456 антыпольская апазіцыя зноў намагалася пасадзіць Сямёна на трон. Ён шукаў падтрымкі ў Маскве, у 1460 прызнаў вял. князя маскоўскага апекуном правасл. зямель ВКЛ. У 1461 апазіцыя патрабавала ад Казіміра, каб той прызначыў Сямёна сваім намеснікам у ВКЛ. Адбудаваў Успенскую царкву Кіева-Пячэрскай лаўры, дзе быў пахаваны. У шлюбе з Марыяй, дачкой віленскага ваяводы Гаштольда, меў сына Васіля і дачок Соф'ю (жонка цвярскога вял. кн. *Міхаіла Барысавіча*) і Аляксандру (жонка пінскага і клецкага кн. Ф.І.Яраславіча). Пасля смерці Сямёна Кіеўскае княства было ператворана ў ваяводства, а яго ўдава з дзецьмі як кампенсацыю атрымла 22.4.1471 Пінскае княства.

Міхаіл Аляксандравіч (?—30.8.1481), сын Алелькі Уладзіміравіча. Пасля смерці бацькі атрымаў Слуцкае і





Да арт. **Алелькавічы**.
Пячатка Ю.Ю.Алелькавіча. 1584.

Капыльскае княствы. Быў запрошаны служылым князем у Вял. Ноўгарад, куды прыбыў 8.11.1470 як намеснік вял. кн. ВКЛ Казіміра. У яго свіце прыбыў яўрэй Схарыя, які паклаў пачатак ерасі пажыдоўленых. 15.3.1471 Міхаіл самавольна выехаў, каб авалодаць Кіевам пасля смерці брата Сямёна. Аднак Казімір ператварыў Кіеўскае княства ў ваяводства і аддаў яго М.Гаштольду. У 1476 Міхаіл падпісаў пасланне кіеўскага мітрапаліта Місаіла да рымскага папы Сікста IV з прапановамі аднавіць царк. унію. Узначаліў апазіцыю княжацкіх і магнацкіх родаў, якая хацела пазбавіць Казіміра ўлады. Аднак *змова 1481* была выкрыта, і ў сярэдзіне крас. 1481 змоўшчыкі былі зняволены. Міхаіл быў абвінавачаны ў дзярж. здрадзе і пакараны смерцю ў Вільні. З жонкай Ганнай меў сына Сямёна.

Васіль Сямёнавіч (каля 1425—4.6.1495), сын Сямёна Алелькавіча. Разам з маці валодаў Пінскім княствам. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

Сямён Міхайлавіч (каля 1460—14.11.1505), сын Міхаіла Аляксандравіча. Пасля смерці бацькі валодаў Слуцкім і Капыльскім княствамі. У 1504 і 1505 на чале слуцкага войска ўдзельнічаў у пераможных баях з крымскімі татарамі на рэках Уша і Прыпяць. Пасля яго смерці Слуцкам некат. час кіравала яго ўдава *Настасся Іванаўна*.

Юрый Сямёнавіч (каля 1492—17.4.1542), сын Сямёна Міхайлавіча. Пасля смерці бацькі князь слуцкі, засядаў у Радзе ВКЛ. У 1506 разам з маці бараніў Слуцк ад крымскіх татараў, у 1508 — ад маскоўскіх войск. Удзельнічаў у бітве з татарамі ва ўрочышчы Рутка за 20 міль ад Кіева (1511), у *Аршанскай бітве 1514*, *бітве нв Альшаніцы 1527*, у кампаніях 1534—35 у час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай*

*1534—37*. Падтрымліваў К.І.*Астрожскага* ў барацьбе з канцлерам А.*Гаштольдам*. Акрамя Слуцкага і Капыльскага княстваў валодаў Лішкавам і Весічамі (Вяйсеямі) у Гарадзенскім пав., дзе ў 1526 пабудаваў касцёл, і інш. У 1528 выстаўляў у войска ВКЛ са сваіх маёнткаў 433 коннікаў, а ў 1534 — 500. Быў жанаты з Аленай, дачкой канцлера ВКЛ А.Гаштольда.

Юрый Юр'евіч (каля 1531—9.11.1578), старэйшы сын Юрыя Сямёнавіча. Як князь слуцкі (валодаў княствам супольна з братам Сямёнам) чл. Рады ВКЛ. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у 1564 і 1567 ваяваў на чале ўласных атрадаў. Прызнаў Люблінскую унію 1569, але не атрымаў месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай, якога доўга дамагаўся. У 1560-х г. даў прытулак у Слуцку рас. вальнадумцу *Арцемію* і яго вучням. У 1576—78 прымаў гісторыка М.*Стрыйкоўскага*, які карыстаўся рукапісамі слуцкай б-кі для напісання сваёй «Хронікі». У пасаг ад жонкі Кацярыны, дачкі кракаўскага ваяводы Станіслава Тэнчынскага, атрымаў Сямяцічы і Орлю на Падляшшы, Батаж і Краснік у Люблінскім ваяв. Валодаў таксама маёнткамі Ванева на Падляшшы, Весічы ў Гарадзенскім пав., Тонава ў Менскім пав. Пазычаў грошы вял. князю, за што атрымаў у заставу Пінскае (1559—61) і Бабруйскае (з 1561) стараствы. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

Сямён Юр'евіч (?—жн. або вер. 1560), сын Юрыя Сямёнавіча. Валодаў супольна з братам Юрыем Слуцкім і Капыльскім княствамі і маёнткамі на Украіне. Жанаты з Гальшкай, дачкой кн. І.К.Астрожскага.

Юрый Юр'евіч (17.8.1559—6.5.1586), старэйшы сын Юрыя Юр'евіча. У 1582 пры падзеле з братамі атрымаў Верхні і Ніжні замкі і Старое места ў Слуцку, частку Слуцкага княства, Весічы і інш. Уласнаручна напісаў *Слуцкае Евангелле* 1585. Пахаваны ў Слуцку. У шлюбе з Барбарай, дачкой падляшскага ваяводы Я.Кішкі, меў дачку Соф'ю (гл. *Радзівіл* С.), да якой адышло Слуцкае княства.

Аляксандр Юр'евіч (?—26.6.1591), сын Юрыя Юр'евіча. У 1580 выехаў на вучобу за граніцу. Наведаў Інгальштат (перайшоў там у каталіцтва), Страсбур, Базель, Італію. Пры падзеле 1582 атрымаў Востраў у Слуцку, маёнткі на Случчыне, Петрыкаўскую вол. у Мазырскім пав., Ваўкалату ў Ашмянскім пав., Сямёнавічы ў Менскім пав. Памёр у Кракаве, пахаваны ў Слуцку.

Ян Сямён Юр'евіч (?—9.3.1592), сын Юрыя Юр'евіча. У 1580 выехаў на вучобу за граніцу. Наведаў Балонню, Рым. Перайшоў у каталіцтва. Пры падзеле 1582 атрымаў Новае места ў Слуцку, Капыль, Лішкаў і інш. Ажаніўся з Зоф'яй, дачкой падольскага ваяводы Мікалая Мялецкага. Апошні з роду А. па мужчынскай лініі.

*Літ.*: Клепатский П.Г. Очерки по истории Киевской земли. Т. 1. Одесса, 1912; Грыцкевіч А. Партрэт Кацярыны Алелькавіч // Мастацтва Беларусі. 1983. № 8; Яго ж. Древний город на Случи. Мн., 1985; Kałamajska-Saeed M. Portrety i zabytki książąt Olelkowiczów w Słucku: Inwentaryzacja Józefa Smolińskiego z 1904 r. Warszawa, 1996; Грыцкевіч А. Юрый Юр'евіч Алелькавіч (каля 1531—1578) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2003. Вып. 2.

*Валерый Пазднякоў.*

**Алена Іванаўна** (19.5.1476, Масква—20.1.1513), вялікая княгіня ВКЛ з 1495, каралева польская с 1501; жонка вял. князя ВКЛ і караля польскага *Аляксандра*. Старэйшая дачка вял. князя маскоўскага *Васіля III*, які разлічваў праз шлюб А.І. атрымаць доступ да спраў ВКЛ, умацаваць там становішча правасл. царквы. Аляксандр бачыў у шлюбе сродак спынення паліт. і ваен. наступу Маскоўскай дзяржавы на ВКЛ. Заручыны адбыліся 6.2.1494 у Маскве ў адсутнасці Аляксандра, а вянчанне — 15.2.1495 у Віленскім кафедральным касцёле св. Станіслава паводле каталіцкага і правасл. абрадаў. Адносіны з мужам у А.І. склаліся добрыя, аднак яе цвёрдая прыхільнасць да праваслаўя выклікала расчараванне каталіцкага акружэння вял. князя. Яе пастаянна ўгаворвалі змяніць веру, але А.І. была няўмольнай, падтрымлівала правасл. царкву ў ВКЛ. З-за правасл. вызнання А.І. не была каранавана на Польскае каралеўства. Садзейнічала заключэнню міру з Маскоўскай дзяржавай у 1503. У 1501—03 атрымла ад мужа маёнткі ў Віленскім і Троцкім ваяв., каля Менска і Гародні, Браслаў, Магілёў, Княжыцы, Смаляны, Цяцерын, Папову Гару. Новы вял. князь ВКЛ Жыгімонт Стары ў 1506 падараваў ёй Бельск, Сараж і Бранск на Падляшшы. Пахавана ў Віленскім Прачысценскім саборы.

*Літ.*: Тураева-Церетели Е.Ф. Елена Иоановна, великая княгиня литовская, русская, королева польская. СПб., 1898; Рудзкі Э. Алена Маскоўская — жонка вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелончыка: Пер. з польск. // Спадчына. 1994. № 1.

*Вольга Князева.*

**Алехна Судзімонтавіч** (Аляксей; ?—1491), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын Судзімонта, старасты крэўскага ў 1433—34, прыхільніка вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча. Продкі А.С. не былі адаптаваны да польскіх родаў у час заключэння уній з Польшчай у 1-й пал. 15 ст., ён карыстаўся гербам «Пагоня». Кар'еры быў абавязаны ласкам вял. кн. Казіміра. Падчашы ВКЛ у 1448—77, падкаморы (ложнічы) у 1449—53, намеснік гарадзенскі ў 1458—59 і полацкі ў 1463—77, ваявода віленскі з 1477 і адначасова канцлер ВКЛ з 1478. Кіраваў ВКЛ у час адсутнасці ў дзяржаве вял. князя. Меў маёнткі Докшыцы, Прусавічы, Далькевічы, Вольберавічы, Гняздзілава, Запонне, Нябышына, Палачаны, Лужаны, Занарач. З жонкай Ядвігай, дачкой І.Манівідавіча, меў дачок Ядвігу (жонка С.Б.Мантоўта, пасля С.Кезгайлы), Соф'ю (жонка кн. А.Ю.Гальшанскага), Аляксандру (з 1484 жонка кракаўскага мечніка М.Тэнчынскага, першы мяшаны шлюб польскай і літоўскай магнатэрыі), Дароту, Святохну і Ганну.

*Валерый Пазднякоў.*

**Алізароўскі** (Альзароўскі, Альжароўскі) Аляксандр Аарон (1610, Падляшша—1659), правазнавец, сацыёлаг. У 1629—36 езуіт. Вучыўся ў Нясвіжы, Вільні, Полацку, Пултуску, Познані, Вюрцбургу, Грацы, Інгальштаце. Служыў у нойбургскага кн. Філіпа Вільгельма. У Інгальштаце выдаў дысертацыі «Асновы рыторыкі» і «Палітычныя праблемы» (1643, на лац. мове), д-р абодвух правоў (1644). Не дамогся кафедры права ў Інгальштацкім ун-це і таму пераехаў у Падую вывучаць медыцыну. Пасля адкрыцця ў Віленскай акадэміі ф-та права запрошаны туды на працу (1644), прафесар царкоўнага, пасля цывільнага права. Пасля заняцця Вільні рас. войскамі (1655) выехаў у Каралявец, дзе вучыўся медыцыне, д-р медыцыны (1658). Выдаў кн. «Аб палітычнай супольнасці людзей» (Гданьск, 1651, на лац. мове), якую прысвяціў фундатару факультэта права Віленскай акадэміі К.Л.Сапегу. Даследаваў розныя формы арганізацыі грамадства на ўсіх узроўнях. Прааналізаваў формы шлюбу, адносіны паноў з падданымі, формы дзярж. ладу. Прапаноўваў вучыць шляхецкую моладзь рамёствам. Асуджаў прыгон, лічыў, што селянін павінен быць асабіста вольным, а за карыстанне зямлёй павінен плаціць толькі чынш. Лічыў неабходным даць грама-

дзянскія правы ўсім вольным жыхарам, а таксама сялянам. На падставе аналізу станоўчых і адмоўных бакоў манархіі, тыраніі, арыстакратыі і дэмакратыі А. выказаўся за спадчынную манархію, лічыў, што манарх не павінен быць чужаземцам. Верыў у магчымасць маральнага ўдасканалення грамадства на аснове рацыянальнай дзейнасці людзей.

*Тв.*: Рус. пер. — О политической общности людей // Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 131—143.

*Літ.*: Сокол С.Ф. Политическая и правовая мысль в Белоруссии XVI—первой половины XVII в. Мн., 1984; Rubicki P. Z dziejów polskiego arystotelizmu: «De politica hominum societate» Aarona Aleksandra Olizarowskiego // Studia i materiały z dziejów nauki polskiej. Seria A. Warszawa, 1959. Z. 3.

***Валерый Пазднякоў.***

**Аліта** (літ. Алітус, Alytus, цяпер горад, цэнтр павета і раёна, Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Троцкім пав., на р. Нёман. Упершыню ўпамінаецца ў хроніцы Віганда з Марбурга пад 1377 як адм. цэнтр Алітэн. У дакуменце 1387 вял. кн. Ягайлы названа мястэчкам. Першапачатковае паселішча з драўляным замкам (існаваў у 13—14 ст.) знаходзілася на правым беразе Нёмана, у канцы 15 ст. ўзнікла 2-е паселішча на левым беразе Нёмана. Да 1520 у правабярэжнай А. пабудаваны касцёл св. Людвіка, у 1524 заснаваны парафія і парафіяльная школа. У 1536 вял. кн. Жыгімонт Аўгуст перадаў А. Яну Забярэзінскаму, ваяводу троцкаму, вял. маршалку ВКЛ, а пасля — сваёй жонцы Барбары Радзівіл. 15.6.1581 А. атрымала магдэбургскае права і герб — выяву белай ружы ў чырв. полі (герб «Порай»). У 1586 заснавана царква. З 1588 цэнтр *Аліцкай эканоміі*. А. неаднаразова разбуралася ў войнах 17 ст. У 1670 у левабярэжнай А. пабудаваны касцёл св. Анёла-ахоўніка, заснавана парафія. Мястэчка моцна пацярпела ў Паўн. вайну 1700—21 і ад пажараў 1733 і 1736. У 1775 у А. з Трокаў і Мерачы пераведзены павятовыя суды. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) правабярэжная А. ў Рас. імперыі, левабярэжная — у Прусіі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Алітус** (літ. Alytus), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр павета і раёна, гл. *Аліта*.

**Аліўскі мір 1660**, мірны дагавор, якім скончылася *Паўночная вайна 1655—60*.



**Аліўскі мір 1660**. Алегарычная гравюра.

Падпісаны 3.5.1660 у Аліўскім кляштары цыстэрцыянцаў каля Гданьска прадстаўнікамі Рэчы Паспалітай, Свяшчэннай Рымскай імперыі і Брандэнбурга з аднаго боку і Швецыі з другога пры пасрэдніцтве Францыі. Перагаворы пачаліся ў Аліве ў студз. 1660. Ад ВКЛ А.м. падпісаў канцлер К.Пац. Кароль польскі і вял. князь літоўскі Ян II Казімір адмовіўся ад правоў на шведскую карону (захаваўшы пажыццёва тытул шведскага караля), а Рэч Паспалітая — ад Інфлянтаў, за выключэннем іх паўд.-ўсх. часткі, дзе пазней створана *Інфлянцкае ваяводства*. Швецыі адышла тэр. Эстоніі з в-вам Эзель і частка тэр. Латвіі. Курляндскае і Земгальскае герцагства засталося васалам Рэчы Паспалітай. Была пацверджана незалежнасць Прускага герцагства ад Польшчы (умовы Вяляўска-Быдгашчкіх трактатаў 1657), Брандэнбург выводзіў войскі з Памор'я ўзамен за г. Эльбланг. А.м. канчаткова замацаваў за Швецыяй землі, набытыя ёй у ходзе *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* (гл. *Альтмаркскае перамір'е 1629*).

*Літ.*: Kubala L. Wojny duńskie i pokój oliwski, 1657—1660. Lwów, 1922; Historia dyplomacji polskiej. Warszawa, 1982. T. 2. S. 216—218.

***Валерый Пазднякоў.***

**Аліцкая эканомія**, дзяржаўнае зямельнае ўладанне ў ВКЛ. Знаходзілася ў зах. частцы Троцкага пав. Цэнтр — мяст. *Аліта*. Утворана 28.1.1588 каралём, зацверджана ў 1589 соймам. У канцы 18 ст. эканомія падзелена на Аліцкую, Бортніцкую і Шчэбраўскую губерні, складалася з 15 трактаў, дзе было 169 вёсак і 3 мястэчкі (больш за 3 тыс. дамоў). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) большая частка эканоміі адышла Прусіі, рэшта — Рас. імперыі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Алыка** (укр. Олика, цяпер гар. пасёлак у Ківерцаўскім р-не Валынскай вобл., Украіна), горад ў Луцкім пав., на р. Пуцілаўка. Упершыню ўпамінаецца пад 1149. З 1199 у *Галіцка-Валынскім княстве*. З 1340 у складзе ВКЛ. У 1433 А. і ваколічныя вёскі вял. кн. Свідрыгайла падараваў Лёньку Зарубічу. У 1493 вял. кн. Аляксандр пацвердзіў троцкаму ваяводу П.Я.Мантыгірдавічу правы на А., якой пасля валодала яго ўдава Ганна. У 1523 вял. кн. Жыгімонт Стары дазволіў Ганне збіраць у А. 2 кірмашы штогод. У 1523 дасягнута пагадненне, што пасля смерці Ганны Алыцкі замак атрымае яе ўнучка Ганна з Кішкаў, жонка М.*Радзівіла* Старога. У 1533 дзеці апошняга М.*Радзівіл* Чорны і Я.*Радзівіл* атрымалі ў супольнае валоданне матчыны маёнткі, у т.л. А. з 12 сёламі. У 1547 Радзівіл Чорны атрымаў тытул князя Свяшчэннай Рымскай імперыі «на А. і Нясвіжы». 31.5.1564 А. дадзена магдэбургскае права, горад меў герб з выявай 2 паляўнічых ражкоў. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1570 у А. 318 дымоў. У 1586 сыны Радзівіла Чорнага заснавалі Нясвіжскую, Клецкую і Алыцкую *ардынацыі*, 1-м алыцкім ардынатам стаў С.*Радзівіл* (валодаў горадам з 1577). У 1667 у сувязі са згасаннем алыцкай лініі Радзівілаў ардынацыя перайшла ў рукі нясвіжскай лініі. У 1591 і 1648 А. захоплена казакамі. У 1593 заснаваны шпіталь. У 1630-я г.


**Алыка**. Замак Радзівілаў.


**Алыка**. Замак Радзівілаў.

вакол горада насыпаны вал, узведзены брамы. У 2-й пал. 16 ст. ў А. пабудаваны новы, прамавугольны ў плане замак з 4 бастыёнамі, які ў 1737—55 перабудаваны як магнацкая рэзідэнцыя (кіраўнік будоўлі Я.Е.Кнакфус). На Пн замка размешчана 5-ярусная брама-вежа з капліцай і гадзіннікам, на Пд — 3-павярховы палац, на У і З — 2-павярховыя карпусы, злучаныя акруглымі аркаднымі перамычкамі з 2-павярховымі крыламі брамы. П.Я.Мантыгірдавіч пабудаваў у А. касцёл Св. Тройцы, які ў 16 ст. ператвораны ў кальвінскі збор. У 1635—40 узведзены мураваны касцёл (арх. Я.Малiверні), пры якім з 1638 існавала семінарыя (напалову свецкая) пад апекай Замойскай акадэміі. Касцёл служыў як пахавальня Радзівілаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) А. ў складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Stecki T.J. Radziwiłłowska Ołyka// Przegląd powszechny. Kraków, 1887. T. 14—15; Tomkowicz S. Ołyka // Prace Komisji historii sztuki PAU. Kraków, 1923. T. 3; Нельговский Ю.А., Годованюк Е.М. Каменные замки Западной Украины конца XVI—первой половины XVII в. // Архитектурное наследство. М., 1986. Вып. 34; Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. 2 wyd. Wrocław etc., 1994. T. 5; Kowalczyk J. Rezydencje późnobarokowe na Wołyniu // Przegląd Wschodni. 1997. T. 4. Z. 1; Терський С. Олика: Історичний нарис. Львів, 2001.

***Валерый Пазднякоў.***

**Альба**, прыгарадны фальварак Нясвіжа, месца размяшчэння палацава-паркавага ансамбля князёў Радзівілаў. У 16—17 ст. у А. існаваў загарадны дом Радзівілаў, у 1-й пал. 18 ст. закладзены вял. парк са шматлікімі пабудовамі. Плошча парку больш за 200 га. Асн. пларніровачныя восі — узаемна перпендыкулярныя гал. алея (даўжыня больш за 2 км) і вял. канал. Цэнтрам кампазіцыі гал. часткі комплексу быў 2-павярховы мураваны палац анфіладнай планіроўкі, накрыты чарапічным дахам і завершаны 2 вежачкамі з ляпнымі гербамі Радзівілаў. За палацам размяшчаўся вял. «італьянскі» сад, гал. алея якога была абсаджана самшытавым дрэвам і злучала палац са звярынцам. Непадалёк ад палаца размяшчаўся шпалерны сад у выглядзе 7-прамянёвай зоркі, утворанай радамі грабавых шпалер з круглай у плане 8-слупавой мураванай купальнай альтанкай у цэнтры, паміж шпалерамі размяшчаліся 7 аднатыпных драўляных будынкаў. Ад шпалернага саду грэбля вяла да «галандскай» фермы, дзе стаяў 2-павярховы будынак, ніжні паверх якога быў змураваны з камянёў, а верхні зроблены ў тэхніцы «прускага муру». Непадалёк ад фермы стаяла альтанка — круглая ў плане 8-слупавая купальная ратонда, ад яе ва ўсе бакі разыходзіліся 8 бярозавых алей. Адна з іх вяла да драўлянага палаца «Эрмітаж». У адным з яго пакояў знаходзілася капліца з 6 фаянсавымі алтарамі, зробленымі на мануфактуры ў мяст. Новы Свержань. Непадалёк ад «Эрмітажа» знаходзіліся драўляны 1-павярховы палац «Кансаляцыя» і 2-і «італьянскі» парк, дзе былі грабавыя і ліпавыя шпалеры, альтанка і аранжарэя. У паўн.-зах. частцы комплексу размяшчаліся звярынец (пл. каля 90 га) і фазанавае поле (пл. каля 65 га). Цэнтр кампазіцыі — круглы вадаём (з востравам і паляўнічым павільёнам), да яго сыходзіліся 8 каналаў. З боку Нясвіжа да звярынца вялі прысады, непадалёку 3-і «італьянскі» парк з 2 аранжарэямі. Пры рэканструкцыі комплексу ў 1780-я г. (арх. Л.Лутніцкі, К.Спампані) уздоўж каналаў зроблены добраўпарадкаваныя набярэжныя, на якіх пастаўлена 180 драўляных катэджаў. На набярэжнай вял. канала стаяў драўляны касцёл Св. Тройцы (з трыма пазалочанымі меднымі купаламі, 12 разнымі алтарамі) і званіца. Пабудовы ансамбля не збераглісся, часткова захаваліся паркавыя насаджэнні.

*Літ.*: Якімовіч Ю.А. Да пытання аб будаўніках Нясвіжа і Альбы ў сярэдзіне XVIII // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Мн., 1984; Bernatowicz T. Alba w czasach Karola Radziwiłła «Panie Kochanku» // In artium hartis. Warszawa, 1997.

**Альбертрандзі** (Albertrandi) Ян (7.12.1731, Варшава—10.8.1808), польскі гісторык. У 1748 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. Вучыўся ў езуіцкіх навуч. установах у Вільні, Нясвіжы, Пінску і Варшаве, у 1761 атрымаў ступень доктара. У 1761—70 выкладаў у Варшаве. Выдаваў з Ф.*Багамольцам* серыю «Збор польскіх летапісаў» («Dzejopisy polskie»), рэдагаваў час. «Zabawy przyjemne i pożyteczne» («Прыемныя і карысныя забавы»). У 1771 выйшаў з ордэна езуітаў, але застаўся ксяндзом. З 1773 хавальнік нумізматычнай калекцыі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, пасля каралеўскі лектар, хавальнік кабінета гравюр. З 1787 канонік гнезненскі, у 1787—89 упарад-

каваў архіў капітулы ў Гнезне. З 1790 каралеўскі бібліятэкар, а з 1794 і архівіст. З 1795 тытулярны біскуп зенапалітанскі, з 1799 біскуп-суфраган варшаўскі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) прызначаны прускімі ўладамі візітатарам варшаўскіх навуч. устаноў і цэнзарам польскага друку. Адзін з заснавальнікаў і першы старшыня Т-ва аматараў навук у Варшаве (1801—08). З навук. падарожжаў у Італію (1782—84) і Швецыю (1789—90) прывёз 180 тамоў копій дакументаў і архіўных вопісаў па гісторыі Рэчы Паспалітай (т.зв. «папкі А.»). Пад уплывам караля і гісторыка А.*Нарушэвіча* прыступіў да напісання вял. гісторыі Польшчы і Рэчы Паспалітай. Працы А. і сабраныя ім дакументы апублікаваны пасля яго смерці: «Помнікі пра даўнюю Польшчу з часоў Жыгімонта Аўгуста…» («Pamiętniki o dawnej Polsce z czasów Zygmunta Augusta, obejmujące listy J.F.Commendoni do Karola Boromeusza», т. 1—2, Вільня, 1847—51), *«Рэляцыі папскіх нунцыяў і іншых асоб аб Польшчы з 1548 да 1690 г.»* (т. 1—2, 1864) і інш. Быў прыхільнікам характэрнага для Асветніцтва прагматычнага падыходу да гісторыі як да крыніцы практычных ведаў. Шмат намаганняў прыклаў для выпрацоўкі падручнікаў, у 1775—77 і 1784—87 супрацоўнічаў з Т-вам элементарных кніг. Пераклаў і дапоўніў нарыс гісторыі Польшчы Ф.А.Шміта «Гісторыя Польскага каралеўства, сцісла па гадах апісаная» («Dzieje Królestwa Polskiego krótko lat porządkiem opisane», Варшава, 1766; 2-е выд., т. 1—2, Львоў, 1846), які служыў школьным падручнікам да пач. 19 ст.

*Тв.*: Panowanie Henryka Walezjusza i Stefana Batorego, królów polskich. T. 1—2. Warszawa, 1823 (4 wyd. Kraków, 1861); Panowanie Kazimierza, Jana Alberta i Aleksandra Jagiellończyków, królów polskich i wielkich książąt litewskich. T. 1—2. Warszawa, 1827; Dwadzieścia sześć lat panowania Władysława Jagiełły, króla polskiego. Wrocław, 1845.

***Валерый Пазднякоў.***

**Альберціні** (Albertini) Джаакіна (30.11.1748, г. Пезара, Італія—27.3.1812), італьянскі кампазітар і капельмайстар. З 1777 працаваў у Варшаве, з 1782 капельмайстар караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1784 у Нясвіжскім замку Радзівілаў дырыжыраваў операй Я.Д.*Голанда* «Агатка» і выканаў уласную арыю. У 1796 выехаў у Італію, у 1803 вярнуўся ў Варшаву, дзе выкладаў спевы. Напісаў оперы («Дон Жуан», пастаўлена ў 1783 у Варшаве, пасля ў Вільні), кантаты (у т.л. ў гонар элекцыі Станіслава Аўгуста, 1790), сімфоніі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Альбрэхт** Гогенцолерн (Albrecht Hohenzollern; 17.5.1490, Ансбах, Германія—20.3.1568), апошні вялікі магістр Нямецкага ордэна з 1510, першы герцаг Прусіі з 1525. Трэці сын Фрыдрыха Брандэнбург-Ансбахскага, маркграфа Ансбаха і Байройта, і Соф'і — дачкі вял. князя ВКЛ і польскага караля Казіміра IV Ягелончыка. Імкнуўся вызваліць Нямецкі ордэн ад васальнай залежнасці ад польскага караля Жыгімонта I Старога (свайго дзядзькі), якая існавала паводле *Тарунскага міру 1466*. У 1519—21 вёў вайну з Польшчай, але пацярпеў паражэнне. У гэты час А. пазнаёміўся з М.Лютэрам і Ф.Меланхтанам, царк. лідэрамі лютэранскай Рэфармацыі, стаў прыхільнікам іх ідэй, вырашыў правесці Рэфармацыю на землях ордэна. Заручыўшыся падтрымкай польскага караля, 8.4.1525 заключыў у Кракаве дагавор, паводле якога Прусія ператваралася ў васальнае адносна да Польшчы герцагства на чале з А. 10.4.1525 у Кракаве А. прысягнуў у васальнай вернасці каралю Польшчы. Аб'явіў таксама аб секулярызацыі Нямецкага ордэна і ўвядзенні ў Прусіі лютэранства. Клапаціўся аб адкрыцці ў гарадах школ, у 1540 заснаваў гімназію ў Каралявуцы, у 1544—універсітэт (Collegium Albertinum), куды запрасіў выкладаць некат. ліцвінаў і палякаў (А.*Кульва*, С.Рафаловіч) і дзе атрымалі адукацыю многія бел. і літ. пратэстанты. У 1545 А. прыслаў у ВКЛ пратэстанцкіх прапаведнікаў і заснаваў для яго грамадзян ва універсітэце спец. стыпендыі. Каб выдаваць кнігі на ням. і літ. мовах, заснаваў друкарню. У сувязі са сваімі выдавецкімі планамі ў 1530 (?) запрасіў у Каралевец Ф.Скарыну. Час праўлення А. адметны няўстойлівай паліт. сітуацыяй у Прусіі: наяўнасць апазіцыі з боку шляхты і мяшчан, сял. паўстанні, барацьба паміж 2 групоўкамі лютэранскіх багасловаў.

*Літ.*: D e m b i ń s k i B. Ostatni mistrz zakonu niemieckiego. Kraków, 1925; H u b a t s c h W. Albrecht von Brandenburg. Heidelberg, 1960.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Альгерд** (каля 1296—май 1377), вялікі князь ВКЛ [1345—77]. Сын *Гедзіміна*. Атрымаў ад бацькі Крэўскае княства. У 1318 ажаніўся з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай, дачкой апошняга віцебскага князя, і пасля смерці цесця ў 1320 стаў і віцебскім князем. Удзельнічаў у вайсковых паходах супраць крыжакоў. Пасля смерці Гедзіміна ў 1341 на некаторы час падпарадкоўваўся малодшаму брату, вял. князю *Яўнуту*, аднак, незадаволены яго праўленнем, разам з братам *Кейстутам* арганізаваў змову супраць Яўнута. З войскам пайшоў з Віцебска на Вільню, аднак Кейстут паспеў захапіць Вільню раней. Яўнут уцёк з горада, але хутка трапіў у палон. Вял. князем літоўскім і рускім стаў А., а Кейстут атрымаў частку зах. і ўсх. зямель ВКЛ (з падпарадкаваннем А.). А. праводзіў унутраную і знешнюю палітыку дзяржавы ў цесным саюзе з Кейстутам, але асн. кірунак усх. палітыкі вёў А., а заходняй — Кейстут. А. паспяхова змагаўся з крыжакамі ў бітвах 1345, 1347, 1348 (каля Трокаў), 1352, 1365, 1370 (Рудаўская бітва), аказваў дапамогу Пскову. Асабліва актыўна дзейнічаў на ўсх. напрамку. Паспяхова вёў палітыку, накіраваную на паліт. і культурна-этнічнае аб'яднанне



**Альгерд**. Гравюра 19 ст. (копія з гравюры 16 ст.).



Пячатка **Альгерда**.



бел. і ўсх.-слав. зямель у адной дзяржаве пад эгідай Вільні. Да ВКЛ былі далучаны Мсціслаў і Белы (Смаленская зямля), Чарнігава-Северскае княства. У паліт. залежнасць ад А. трапіла Смаленскае княства. З 1351 вёў барацьбу з Залатой Ардой. У *бітве каля Сініх Вод 1362* разбіў войска 3 татарскіх ханаў. У выніку гэтай перамогі з-пад татарскага панавання была вызвалена Кіеўская зямля, дзе князем быў пасаджаны *Уладзімір Альгердавіч*, Валынь і Падолле. Укр. землі надоўга ўвайшлі ў склад ВКЛ. У 1349—51 і 1366 А. вёў барацьбу з Польшчай за Валынь і Падляшша (гл. *Войны Вялікага княства Літоўскага з Польшчай 14—15 ст.*). А. імкнуўся пашырыць свой уплыў на Цвярское княства і замацаваў саюз з ім у 1350 шлюбам з цвярской князёўнай Ульянай Аляксандраўнай. Адносіны з Маскоўскім вял. княствам былі напружанымі. У *вайне Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72* не дамогся перамогі, аднак тэрыторыі на Пд ад Масквы (*Вярхоўскія княствы*) былі далучаны да ВКЛ. За час панавання А. тэрыторыя ВКЛ павялічылася больш чым у 2 разы, а бел. землі занялі цэнтр. месца ў дзяржаве. Гэта забяспечыла рост іх эканомікі, развіццё культуры, умацаванне бел. мовы як афіцыйнай, пашырэнне ўплыву правасл. царквы. Сыны А. — *Альгердавічы* — былі праваслаўнымі (толькі пасля Крэўскай уніі некаторыя з іх прынялі каталіцтва).

*Літ.*: Stadnicki K. Olgierd i Kiejstut, synowie Gedymina, w. księcia Litwy. Lwów, 1870; Антонович В.Б. Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1885; Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Греков И.Б. Очерки по истории международных отношений Восточной Европы XIV—XVI вв. М., 1963; Budreckis A.M. Algirdas. Brooklyn, 1981; Ochmański J. Wielki książę litewski Olgierd w historiografii polskiej // Ochmański J. Dawna Litwa. Olsztyn, 1986; Сагановіч Г. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мн., 2001; Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. 2 выд. Мн., 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Альгердавічы**, галіна велікакняжацкай дынастыі ў ВКЛ у 14—16 ст.; нашчадкі вял. кн. *Альгерда*. Ад 2 жонак (князёўны Марыі Яраслаўны Віцебскай і князёўны Ульяны Аляксандраўны Цвярской) Альгерд меў 12 сыноў і 9 дачок. Усе яны дажылі да сталага ўзросту. Вызнавалі праваслаўе, некаторыя пры заключэнні *Крэўскай уніі 1385* прынялі каталіцтва. Вял. князямі з роду А. былі сыны Альгерда — *Ягайла* (Якаў, Уладзіслаў, вял. князь ВКЛ у 1377—92 з перапынкам, кароль польскі ў 1386—1434) і *Свідрыгайла* (Леў, Баляслаў, вял. князь ВКЛ у 1430—32). Нашчадкі Альгерда, сыны Ягайлы — Уладзіслаў (кароль Польшчы) і Казімір (вял. князь ВКЛ, потым і кароль польскі) — называліся *Ягелонамі*. Гэтая назва захоўвалася і за нашчадкамі Казіміра да 2-й пал. 16 ст. Дынастыя Ягелонаў згасла ў 1572. А. называліся таксама нашчадкі інш. сыноў Альгерда, якія мелі ўдзелы на Беларусі і ў інш. землях. Часам яны намагаліся заняць велікакняжацкі пасад, грунтуючы свае прэтэнзіі на паходжанні ад Альгерда. Гэтыя ўдзельныя князі і іх нашчадкі мелі ўжо інш. прозвішчы, утвораныя ад імя непасрэднага продка або ад назвы княства (маёнтка), дзе яны княжылі. Нашчадкі князя бранскага, трубчэўскага і старадубскага *Дзмітрыя Альгердавіча* называліся князямі *Трубяцкімі*, нашчадкі *Уладзіміра Альгердавіча* ад яго першага сына Алелькі — князямі *Алелькавічамі* (Слуцкімі), ад яго другога сына Івана — князямі *Бельскімі*, нашчадкі Канстанціна Альгердавіча — князямі *Чартарыйскімі*, нашчадкі Фёдара Альгердавіча — князямі *Кобрынскімі*, Гуркавічамі і *Сангушкамі*, нашчадкі *Карыбута* — князямі *Карыбутавічамі*, нашчадкі *Лугвена* — князямі *Мсціслаўскімі*. А. карысталіся пэўнымі прывілеямі як найбліжэйшыя сваякі дынастыі Ягелонаў, засядалі ў Радзе ВКЛ на спадчыннай аснове, карысталіся гербам велікакняжацкай дынастыі Ягелонаў і ўсёй дзяржавы — «Пагоняй». А. мелі значны ўплыў на магнатаў і часта ўзначальвалі паліт. групоўкі.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Альдона** (1309 або 1310—26.5.1339), польская каралева з 1333, жонка *Казіміра III*. Дачка вял. князя ВКЛ *Гедзіміна*. 16.10.1325 выдадзена замуж за каралевіча Казіміра (сына польскага караля Уладзіслава I Лакатка), які ў 1333 стаў каралём.

Пры хрышчэнні А. атрымала імя Ганна (яе язычніцкае імя называе толькі храніст 16 ст. М.Стрыйкоўскі). Шлюб замацаваў саюз паміж ВКЛ і Польшчай, скіраваны супраць Нямецкага ордэна (гл. *Дагавор 1325*). Гэта быў першы дынастычны шлюб паміж прадстаўнікамі ВКЛ і Польскага каралеўства, які садзейнічаў збліжэнню паміж дзвюма дзяржавамі. Паводле Стрыйкоўскага, пры заключэнні шлюбу з Літвы былі адпушчаны на радзіму 24 тыс. палонных палякаў. Я.Длугаш характарызуе А. так: «жанчына пачцівая, пакорная свайму мужу-каралю, шчодрая і дабрачынная для духоўных і ўбогіх; аддавалася, аднак, забавам, танцам і мірскім уцехам».

*Літ.*: Рудзкі Э. Ганна Альдона, дачка Гедыміна, жонка польскага караля Казіміра Вялікага: Пер. з польск. // Спадчына. 1993. № 5; Błaszczyk G. Małżeństwa dynastyczne polsko-litewskie od XIII do XV wieku // Profesor Henryk Łowmiański: Życie i dzieło. Poznań, 1995.

***Валерый Пазднякоў.***

**Альтмаркскае перамір'е 1629**, перамір'е, якім скончылася *вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. Падпісана 26.9.1629 у г. Альтмарк (цяпер в. Стары Тарг каля г. Мальбарк, Польшча) на 6 гадоў. Перагаворы ішлі з 1627 пры пасрэдніцтве Нідэрландаў, Прусіі і Брандэнбурга, Англіі і Францыі. Швецыя захавала заваяваныя ёю тэрыторыі ў Інфлянтах (да Дзвіны) і большасць партоў Усх. і Зах. Прусіі, акрамя Каралянца (Кёнігсберга), Гданьска і Пуцка, атрымла права на б.ч. мытных збораў ад гандлю Рэчы Паспалітай праз Гданьск, дзе Польшча пазбаўлялася права будаваць і трымаць ваенны флот. Гарады Штум, Мальбарк і Ілава былі аддадзены ў секвестр брандэнбургскаму курфюрсту. Курляндскаму герцагу Швецыя вярнула Мітаву. Пацверджана вольнасць гандлю. Асобныя пагадненні Швецыя заключыла з Гданьскам (18.2.1629), з Георгам Вільгельмам як з герцагам Прусіі (16.11.1629) і з Курляндыяй (сак. і чэрв. 1630). А.п. дало магчымасць Швецыі ўступіць у Трыццацігадовую вайну 1618—48 і пачаць ваенныя дзеянні супраць Свяшчэннай Рымскай імперыі. А.п. было працягнута перамір'ем, заключаным 12.9.1635 у в. Штумсдорф (Шумска Весь) каля Гданьска на 26,5 года. Швецыя абавязвалася пакінуць захопленыя тэрыторыі ў Каралеўскай Прусіі, вярнуць польскі флот і права збору мыта з польскага гандлю, а кароль польскі і вял. князь літоўскі Уладзіслаў — не прэтэндаваць на шведскую карону на тэрмін дзеяння перамір'я. Дзейнічала да пачатку *Паўночнай вайны 1655—60*.

*Літ.*: Historia dyplomacji polskiej. Warszawa, 1982. T. 2. S. 51—56, 103—107.

***Валерый Пазднякоў.***

**Альшаніца**, Альшанка, Альшаная, рака ў Чаркаскай вобл. Украіны, правы прыток Дняпра (паміж рэкамі Рось і Цясмін). У 1527 на А. адбылася бітва паміж войскам ВКЛ і крымскімі татарамі. Гл. *Бітва на Альшаніцы 1527*.

**Альшаўскас** (Альшэўскіс, Olšauskas, Olševskis) Міколас (каля 1712, Жамойць— каля 1779), літ. каталіцкі рэліг. дзеяч, пісьменнік. Манах ордэна канонікаў рэгулярных. Выкладаў у манаскіх школах. Напісаў пра хрысціянскі аскетызм і пакорнасць белетрызаваную кн. «Брама, адчыненая ў вечнасць» («Broma atwerta ing wiecznasti», 1753; 20 выд. 1851). Яна ўтрымлівае тлумачэнне каталіцкіх догматаў, якія ілюструюцца фантастычнымі апавяданнямі, шмат схаластычных разважанняў. Твор А. — узор літоўскай пісьмовай мовы 18 ст. са значнымі запазычаннямі з бел. і польск. моў (каля паловы ўсёй лексікі кнігі).

*Літ.*: Tereškinas A. Stiliaus ir žanro problemos M.Alšausko ir K.Lukausko pamoksluose // Senoji Lietuvos literatūra. Kn. 1. Vilnius, 1992.

**Альшэўскі** Якуб (каля 1585, Мазовія— 5.6.1634), каталіцкі рэліг. дзеяч, пісьменнік, педагог. Д-р тэалогіі (1623). З 1603 езуіт. Вучыўся ў Пултуску, Вільні, Нясвіжы. Выкладаў у езуіцкіх навуч. установах у Браневе (1614—15), у Вільні (1615—19 і 1620—31), у Пултуску (1619—20). Дэкан філасофскага і тэалагічнага ф-таў Віленскай акадэміі (1631—33), віцэ-канцлер акадэміі (1633—34). Выдатны тэолаг і прапаведнік. Аўтар шматлікіх акалічнасных казанняў, перавыдадзеных у кн. «Казанні або тытулы... розных гадоў розным асобам прысвечаныя» («Kazania albo tytuły ... różnych lat różnym osobom wystawione», Вільня, 1645). Уздымаў пытанні небяспекі граніц Рэчы Паспалітай, цяжкага становішча сялян, заганнасці дзярж. ладу, свавольства шляхты. Прапаноўваў соймавым паслам далучацца да думкі большасці, а не кіравацца інструкцыямі соймікаў і прынцыпам «ліберум вета».

*Валерый Пазднякоў.*

**Альшэўскі летапіс**, помнік бел.-літоўскага летапісання 16 ст.; спіс пашыранай рэдакцыі *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, перакладзены на польск. мову, аналагічны тэксту Кракаўскага (на польск. мове) і Румянцаўскага спісаў (гл. *Румянцаўскі летапіс*). У 19 ст. захоўваўся ў б-цы А.Хамінскага ў маёнтку Альшэва (ад яго і назва) каля Нарачы; цяпер зберагаецца ў Нац. б-цы ў Варшаве. У гэтым жа рукапісе, які датуецца 1550, змешчаны і польскі пераклад Статута ВКЛ 1529. У А.л. пададзена гісторыя ВКЛ ад легендарнага князя Палемона да сярэдзіны 15 ст. Асабліва падрабязна апісаны перыяд княжання Вітаўта, выкладзены паводле *«Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»*. У канцы летапісу змешчана «хронічка» — збор кароткіх датаваных звестак за 1307—1535. А.л. — самы ранні пераклад на польск. мову бел.-літ. летапісу. Упершыню апублікаваны С.Пташыцкім асобным выданнем (Вільня, 1907), пасля — у «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т.17, 1907; т. 35, 1980).

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**Алякна́** (Alekna) Антанас (19.12.1872, в. Шнюрай, цяпер Радвілішкаўскі р-н, Літва—12.6.1930), літоўскі гісторык. У 1894—97 вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі. З 1897 ксёндз, парафіяльны вікарый, з 1906 каўнаскі кафедральны вікарый, канонік. У 1907—19 рэдактар час. «Vienybė» («Адзінства»). З 1917 выкладаў у Каўнаскай духоўнай семінарыі, з 1922 прафесар тэалагічнафілас. факультэта Каўнаскага ун-та. Выдаў падручнік для школ «Літоўская гісторыя» («Lietuvos istorija», 1911, пашыранае выданне 1923, польскі пераклад 1923), манаграфію «Жамойцкі біскуп Мацеюс Валанчус» («Žemaičių vyskupas Motiejus Valančius», 1923), працы па гісторыі царквы «Кароткая гісторыя царквы» («Trumpa Bažnyčios istorija», 1906), «Літоўская каталіцкая царква» («Katalikų bažnyčia Lietuvoje», 1926), «Святы Казімір» («Šv. Kazimieras», 1927), «Гісторыя літоўскага касцёла» («Lietuvos Bažnyčios istorija», 1929). Стаяў на пазіцыях пазітывізму, гіст. факты аддзяляў ад рамантычных легенд.

*Валерый Пазднякоў.*

**Аляксандр** (у ВКЛ Аляксандр II; 5.8.1461, г. Кракаў—19.8.1506), вялікі князь літоўскі [1492—1506], кароль польскі [1501—06]. 4-ы сын *Казіміра IV* ад Альжбеты Габсбург. Атрымаў адукацыю пад кіраўніцтвам гісторыка Я.*Длугаша*. Быў вызначаны бацькам яшчэ ў 1484 спадчыннікам трона ў ВКЛ. У 1491 прыбыў на сталы побыт у Вільню. Пасля смерці Казіміра А. быў абраны вял. князем літоўскім на сойме ў Вільні, а



**Аляксандр**. Дрэварыт з кнігі Мацея з Мехава «Хроніка палякаў». 1521.

польскі сейм абраў каралём яго старэйшага брата Яна Ольбрахта [1492—1501]. Адразу пасля абрання А. выдаў агульназемскі *Прывілей 1492*, якім значна пашырыў правы баяр ВКЛ. Улада вял. князя абмяжоўвалася на карысць паноўрады, без згоды якіх вял. князь не меў цяпер права прымаць важныя дзярж. рашэнні. Пастановы рады вял. князь не меў права адмяняць. У знешняй палітыцы галоўнымі былі адносіны з Маскоўскім вял. княствам, якое перад гэтым пазбавілася татара-мангольскага прыгнёту і прад'яўляла прэтэнзіі на ўсх. тэрыторыі ВКЛ, а потым і на ўсю дзяржаву. Пасля *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94* была страчана Вязьма і канчаткова — Вярхоўскія княствы. Мірны дагавор быў замацаваны ў 1495 шлюбам А. з князёўнай *Аленай Іванаўнай*, дачкой вял. князя маскоўскага Івана III, які разлічваў з дапамогай дачкі ўплываць на ўнутрыпаліт. сітуацыю ў ВКЛ, а А. спадзяваўся на трывалыя мірныя адносіны з Масквой. Аднак пачалася наступная *вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. Пасля смерці Яна Ольбрахта польскі сейм выбраў А. каралём, і персанальная унія ВКЛ з Польшчай была адноўлена. З гэтага часу ў адносінах да дзвюх дзяржаў пачала ўжывацца назва Рэч Паспалітая. *Мельніцкая унія 1501* паміж абедзвюма дзяржа-



вамі не была ажыццёўлена. Па абранні А. выдаў *Мельніцкі прывілей 1501*. У 1503 А. заключыў з Іванам III перамір'е, уступіўшы Маскоўскай дзяржаве гарады Чарнігаў, Гомель, Старадуб, Ноўгарад-Северскі, Бранск, Мцэнск і інш. У наступныя гады ўдалося спыніць напады крымскіх татараў і нанесці ім сур'ёзнае паражэнне ў *Клецкай бітве 1506*. У Польшчы А. зацвердзіў *Радамскую канстытуцыю 1505*, якая прызнавала за сеймам права выдаваць законы, а кароль не меў права зацвярджаць законы без згоды сенатараў і шляхецкіх дэпутатаў. А. памёр у Вільні і быў пахаваны ў кафедральным касцёле св. Станіслава.

*Літ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Akta Aleksandra króla polskiego, wielkiego księcia litewskiego i t.d. (1501—1506). Kraków, 1927; Papée F. Aleksander Jagiellończyk. Kraków, 1949; Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellonczyka: Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. Poznań, 1995; Грыцкевіч А. Аляксандр Казіміравіч // Скрыжалі «Спадчыны». Мн., 1996. Вып. 2; Ермаловіч М. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. 2 выд. Мн., 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Аляксандраў прывілей**, гл. *Прывілей 1492*.

**Аляксей Міхайлавіч** (Алексей Михайлович; 20.3.1629, Масква—8.2.1676), рускі цар [1645—76]. З дынастыі Рамановых, сын цара Міхаіла Фёдаравіча. Выхоўваўся баярынам Б.І.Марозавым, які з 1645 фактычна правіў. А.М. пачаў правіць краінай з 1648, калі паабяцаў маскоўскім паўстанцам адхіліць Марозава ад спраў. Удзельнічаў у складанні і рэдагаванні *Саборнага ўлажэння 1649*. Для ўзмацнення цэнтралізацыі кіравання дзяржавай у 1654 стварыў Прыказ тайных спраў, перастаў склікаць Земскія саборы. Правёў пасадскую, царкоўную, мытную, грашовую і інш. рэформы, рэарганізаваў узброеныя сілы, прыцягваў на службу іншаземцаў. Пры ім адбыліся паўстанні гараджан у Маскве (1648, 1662), Ноўгарадзе і Пскове (1650), Салавецкае паўстанне (1668—76), сялянская вайна пад кіраўніцтвам С.Разіна 1670—71. У 1654 падначаліў Украіну. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* на чале адной з армій заняў у 1654 Смаленск, у 1655 Веліж, Менск, Вільню і інш. Прыняў тытул вял. князя смаленскага, полацкага, віцебскага і мсціслаўскага, а са жн. 1655 — вял. князя літоўскага, «всеа Великиа, и Малыа, и Белыа Росии самодержец». Раздаваў бел. землі рас. дваранам і баярам, прымусова перасяляў жыхароў Беларусі (асабліва рамеснікаў) у Расію. У 1656—58 вёў вайну са Швецыяй. Аўтар няскончаных мемуараў пра вайну 1654—67. Запрасіў у Маскву выхавацелем царэвічаў *Сімяона Полацкага*.

*Тв.*: Собрание писем царя Алексея Михайловича. М., 1856; Письма русских государей и других особ царского семейства. Т. 5. Письма царя Алексея Михайловича. М., 1896; Сочинения царя Алексея Михайловича // Памятники литературы Древней Руси: XVII век. Кн. 1. М., 1988.

*Літ.*: Заозерский А.И. Царская вотчина XVII в.: Из истории хозяйственной и приказной политики царя Алексея Михайловича. 2 изд. М., 1937; Душечкина Е.В. Царь Алексей Михайлович как писатель: (Постановка проблемы) // Культурное наследие древней Руси. М., 1976; Fuhrmann J.T. Tsar Alexis, his reign and his Russia. S.1., 1981; Андреев И. Алексей Михайлович. М., 2003.

**Аляхновіч** Міхал (28.9.1746, Жамойць—5.4.1782), прававед, педагог. У 1764 у Расейнах уступіў у ордэн піяраў. Вучыўся і выкладаў у піярскіх калегіумах у Любяшове (яго прэфект у 1773—75), Вільні і Шчучыне. Вывучаў права ў Гал. школе ВКЛ, дзе пасля атрымання доктарскай ступені прызначаны Адукацыйнай камісіяй у ліст. 1781 прафесарам новазаснаванай кафедры айч. права і судовага працэсу ВКЛ. Чл. масонскай ложы «Храм мудрасці». Аўтар акалічнасных вершаў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Аляхновічы**, шляхецкі род герба «Ляліва». Родапачынальнік — літ. баярын Рымавід, які жыў у пач. 15 ст. і быў, відаць, сваяком Маніўіда, Гедыголда і Вяжа. Меў сыноў Юрыя (родапачынальнік *Забярэзінскіх*) і Алехну, нашчадкі якога зваліся А. Найб. вядомыя:

Алехна Рымавідавіч (?—1456), сын Рымавіда. Маршалак гаспадарскі з 1447. Валодаў маёнткамі Забярэззе і Крывічы на Ашмяншчыне. Меў сыноў Пятра, Станіслава, Мікалая і Андрэя.

Пётр Алехнавіч (?—1516), сын Алехны Рымавідавіча. Маршалак П.Я.Мантыгірдавіча ў 1488, кухмістр ВКЛ з 1492; намеснік аліцкі і неманойцкі ў 1494—1502, скірстымонскі ў 1505—07, уцянскі з 1514. У 1499 пасол у Малдову. Падпісаў як сведка дагавор 1501 з Інфлянцкім ордэнам. На Гарадзенскім сойме 1501 прызначаны вял. князем ВКЛ Аляксандрам дэлегатам на Пётркаўскі сойм, скліканы для абрання Аляксандра на польскі трон і заключэння уніі з Польшчай. У 1506 адзін з паслоў ВКЛ на Люблінскі сойм для перагавораў аб дзярж. уніі. У 1507 адпраўлены паслом у Маскву, дзе быў затрыманы на год. Валодаў маёнткамі ў Літве, Жамойці, на Валыні і Кіеўшчыне. Яго сыны Станіслаў і Мікалай зваліся Кухмістровічамі.

Андрэй Алехнавіч (?—?), сын Алехны Рымавідавіча. Намеснік ожскі, пераломскі і борцкі ў 1493—94. Пасол у Маскву ў 1493.

Станіслаў Пятровіч (Кухмістровіч; ?—?), сын Пятра Алехнавіча. У 1528 намеснік віленскага біскупа Яна ў Шаўлях, ставіў у войска 3 коннікаў.

Мікалай Пятровіч (Кухмістровіч; ?—каля 1548), сын Пятра Алехнавіча. Каралеўскі дваранін у 1532—34, мечнік ВКЛ з 1539. У 1547 атрымаў ад вял. кн. Жыгімонта Аўгуста на 2 гады Чарнобыль, аднак хутка памёр. У 1547 атрымаў дазвол закласці ў сваіх уладаннях г. Дарагастаі. Меў сыноў Мікалая, Пятра, Яна, Станіслава, Якуба. Мікалай атрымаў пасля бацькі Дарагастаі і даў пачатак роду *Дарагастайскіх*.

Юрый (Іжык; ?—?), сын Мікалая Алехнавіча, унук Алехны Рымавідавіча. У 1528 ставіў у войска 17 коннікаў. Родапачынальнік Іжыкавічаў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Аматус Сільвіус** (Сільвіо дэ Маціо; Amatus Sylvius, Silvio de Mathio) Сікулюс Джавані (паміж 1465—70, г. Палерма, Італія—1537), прававед, педагог, гуманіст. Вучыўся ў Падуанскім ун-це, дзе атрымаў ступені магістра свабодных навук і доктара абодвух правоў. З 1501 у Кракаве, дзе працаваў настаўнікам моладзі з арыстакратычных сем'яў, у т.л. П.Гальшанскага. Верагодна, у гэты час напісаў пед. трактат «Аб навучанні каралеўскага дзіцяці» («De institutione regii pueri»). Пасля ксёндз і з 1503 выкладчык гуманітарных прадметаў у Кракаўскай акадэміі, у 1506 упершыню ў Польшчы пачаў выкладаць грэчаскую мову. Магчыма, у А.С. вучыўся Ф.Скарына, які сустракаўся з А.С. і ў 1520-я г. ў Літве. У 1508 А.С. быў звольнены і пераехаў у ВКЛ на службу да І.С.Сапегі, канцлера

вял. княгіні ВКЛ Алены Іванаўны; у складзе яго пасольства наведаў у 1508 Маскву. У 1510—12 зноў выкладчык Кракаўскай акадэміі. У 1515 атрымаў бенефіцыю ў Жамойцкім біскупстве, дзякуючы чаму мог займацца літаратурнай дзейнасцю. З 1529 настаўнік каралевіча Жыгімонта Аўгуста. Схаластык, з 1518 канонік і афіцыял Віленскага кафедральнага касцёла, пробашч у Лідзе і Віцебску. Надрукаваў некалькі рэкамендацыйных вершаў і лістоў у творах інш. пісьменнікаў. Меў значную бібліятэку. Падтрымліваў кантакты з многімі гуманістамі Еўропы. Праціўнік Эразма Ратэрдамскага. Дзейнасць А.С. спрыяла пашырэнню ў Польшчы і ВКЛ рэнесансава-гуманістычных поглядаў.

*Літ.*: Barycz H. Sycylijski pionier kultury renesansowej w Polsce // Barycz H. W blaskach epoki Odrodzenia. Warszawa, 1968.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ананія** (2-я пал. 15—1-я пал. 16 ст.), першы вядомы бел. разьбяр па дрэве. Стварыў для пінскага, клецкага і рагачоўскага кн. Ф.І.Яраславіча (гл. ў арт. *Яраславічы*) некалькі разных драўляных



**Ананія**. «Прамудрасць стварыла сабе храм» (Рускі музей у Пецярбургу).

абразкоў. Адзін з іх «Прамудрасць стварыла сабе храм» у 19 ст. знаходзіўся ў калекцыі графа Бланжы ў Парыжы. У Рус. музеі ў Пецярбургу захоўваюцца 2 разныя мініяцюры А.: «Прамудрасць стварыла сабе храм» ( тоесная абразку з калекцыі Бланжы) і 4-часткавы абразок «Святы». Абразкі выканаы з цёмнага, цвёрдага дрэва. На абразку «Святы» надпісы, што ён падараваны кн. Яраславічам Фёдару Іванавічу Шчэпіну (дакладна: Фёдар Пятровіч Шчэпа — набліжаны баярын кн. Яраславіча, меў маёнткі каля Пінска і Клецка, упамінаецца ў 1503—28) і «Робілъ попъ Анания». А., відаць, быў святаром у адным з гарадоў паўд. Беларусі.

*Літ.*: Уваров А.С. Резная икона: «Премудрость созда себе дом», принадлежавшая Пинскому князю Феодору Ивановичу Ярославичу, 1499—1522 // Уваров А.С. Сборник мелких трудов. М., 1910. Т. 1; Плешанова И.И. Два резных деревянных образка в собрании Русского музея // Памятники культуры: Новые открытия. 1979. Л., 1980.

***Валерый Пазднякоў.***

**Анацэвіч** Ігнат Сымонавіч (псеўд. Жэгота з Малой Бераставіцы; 1780, в. Малая Бераставіца Гродзенскага пав., цяпер Бераставіцкі р-н—18.2.1845), гісторык, археограф, архівіст. Вучыўся ў Кёнігсбергскім ун-це (1803—05), скончыў Віленскі ун-т (1811). У 1813—17 выкладчык гімназіі ў Беластоку. З 1818 ад'юнкт, з 1827 праф. Віленскага ун-та. У 1828 абвінавачаны ва ўдзеле ў студэнцкай арг-цыі «Плямёны сарматаў» і высланы на радзіму. З 1834 у Пецярбургу, супрацоўнік Археаграфічнай камісіі, Румянцаўскага музея. Даследаваў архівы і б-кі Пецярбурга, Дэрпта, Рыгі, Кёнігсберга, Варшавы, рукапісныя зборы прыватных асоб у Гродзенскай губ. Па выніках вандровак друкаваў артыкулы ў час. «Северный архив», «Северная пчела», «Вестник Европы». Вывучаў гісторыю ВКЛ, калекцыяніраваў крыніцы, збіраў і апрацоўваў матэрыялы да «*Актаў Заходняй Расіі*». Аўтар артыкулаў па гісторыі Беларусі («Накід першабытнай гісторыі Літвы", 1846; «Накід гісторыі Вялікага княства Літоўскага», 1849—50, і інш.). Гал. яго праца «Гісторыя Літвы» засталася ненадрукаванай, некалькі яе тамоў, паводле завяшчання А., перададзены Ю.Крашэўскаму. Калекцыя рукапісаў і кнігазбор А. трапілі К.Свідзінскаму.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 34—35; Iwaszkiewicz J. Ignacy Żegota Onacewicz — historyk Litwy// Studia i materiały z dziejów nauki polskiej. Warszawa, 1961. Ser. A, z. 4.

***Дзмітрый Караў.***



Ф.**Ангілейка**. «Успенне Багародзіцы». Дрэварыт з кнігі «Ирмолой сиречь «Осмогласник» Іаана Дамаскіна. Магілёў. 1700.

**Ангілейка** Фёдар, беларускі гравёр па дрэве канца 17—пач. 18 ст. Прадстаўнік Магілёўскай школы гравюры. Творы А. звязаны з выданнямі друкарні Богаяўленскага правасл. брацтва ў Магілёве. Выканаў каля 10 падпісаных ксілаграфій: загалоўны ліст да кнігі «Ирмолой сиречь Осмогласник» Іаана Дамаскіна (1700), «Нявер'е Фамы», «Вылячэнне расслабленага», «Укрыжаванне», «Абразанне», «Сашэсце Св. Духа на апосталаў», «Успенне Багародзіцы», «Уезд Хрыста ў Іерусалім», «Пакланенне пастухоў» і інш.; усе ў «Ирмолое» 1747. А. таксама аўтар каля 20 непадпісаных гравюр у магілёўскіх брацкіх выданнях канца 17—пач. 18 ст. Для гравюр А. характэрна прастата кампазіцыйных пабудоў і тэхн. прыёмаў, строгая лінеарная манера выканання, што збліжае іх з творамі нар. мастацтва.

*Літ.*: Пікулік А.М. Мастацтва магілёўскіх старадрукаў. Мн., 2002.

***Алена Пікулік.***

**Андрайкевіч** (Гінтаўт-Андрайкевіч) Ян Андрэй (1609, Ашмянскі пав.—4.10.1673), каталіцкі рэліг. дзеяч, пісьменнік, педагог. З 1628 езуіт. Вучыўся ў Вільні. Прэфект б-кі Полацкага калегіума (1631—33), прапаведнік у Варшаве,



рэктар Полацкага калегіума (1650—53), спавядальнік падканцлера ВКЛ К.Л.Сапегі ў яго вайсковых абозах (1653—54), пасля ў Варшаве і Рашалі, рэктар Нясвіжскага калегіума (1670—73), місіянер у Тыкоціне. Аўтар пахавальнага казання «Мемарыял несмяротнай памяці» («Memoriał nieśmiertelnej pamięci», Вільня, 1667), дзе даў звесткі пра жыццё Сапегі, змясціў партрэты і гербы прадстаўнікоў роду Сапегаў. Яго тэалагічны твор «Гарчычнае зерне горкай пакуты найсалодшага Збавіцеля» («Ziarno gorczyczne gorzkiej męki najsłodszego Zbawiciela», Вільня, 1673) карыстаўся вял. папулярнасцю, неаднаразова перавыдаваўся (Вільня, 1688, 1757; Замосце, 1701; Каліш, 1746, 1756; Кракаў, 1881), перакладзены на ням. мову (Рэгенсбург, 1719).

***Валерый Пазднякоў.***

**Андросаўскае перамір'е 1667**, перамір'е, якім скончылася *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Падпісана 9.2.1667 у в. Андросава (Андрусава, у Смаленскім ваяв. на мяжы з Мсціслаўскім ваяв.) прадстаўнікамі Расіі на чале з А.Л.Ардын-Нашчокіным і Рэчы Паспалітай на чале з Ю.Глябовічам. Дэлегацыі абедзвюх дзяржаў з 10.5.1666 да пач. 1667 правялі ў Андросаве 35 пасяджэнняў. Перамір'е заключана на 13,5 года. Паводле дагавора, да Расіі перайшлі Смаленскае ваяв. з гарадамі Смаленск, Дарагабуж, Белы, Рослаўль, Мглін, Сураж, Старадуб, Папова Гара, Чарнігаўскае ваяв. з гарадамі Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Глухаў, а таксама гарады Веліж і Невель Віцебскага ваяв., г. Себеж Полацкага ваяв. Рэч Паспалітая прызнала далучэнне Левабярэжнай Украіны да Расіі і згадзілася на перадачу Расіі Кіева і яго прыгарадаў у радыусе 1 мілі да 15.4.1669 (не быў вернуты Рэчы Паспалітай). Запарожская Сеч апынулася пад агульным кіраўніцтвам абедзвюх дзяржаў. Беларусь і Правабярэжная Украіна засталіся ў межах Рэчы Паспалітай, іх насельніцтву гарантавалася свабода правасл. веравызнання і недатыкальнасць правасл. епархій. Палонныя сяляне з ВКЛ на тэрмін дзеяння перамір'я заставаліся ў Расіі, у ВКЛ вярталіся вывезеныя архівы, бібліятэкі, царкоўныя рэчы і званы. Расія абавязалася выплаціць шляхце кампенсацыю за страчаныя маёнткі. Абвяшчалася свабода гандлю. А.п. засведчыла канец тэрытарыяльнай экспансіі Рэчы Паспалітай на У, рост уплыву Расіі ва Усх. Еўропе і стала пачаткам саюзу Рэчы Паспалітай і Расіі супраць Турцыі і Крымскага ханства. А.п. некалькі разоў працягвалася і ўдакладнялася ў 1667—72. Яго ўмовы ў асноўным пацверджаны *«Вечным мірам» 1686*.

*Літ.*: Wójcik Z. Traktat andruszowski 1667 r. i jego geneza. Warszawa, 1959; Галактионов И.В. Из истории русско-польского сближения в 50—60-х годах XVII века: (Андрусовское перемирие 1667 года). Саратов, 1960; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995.

**Андрэй** (?—14.11.1398), каталіцкі рэлігійны дзеяч ВКЛ, першы біскуп віленскі. З малапольскага шляхецкага роду герба «Ястрабец». Гісторык Я.Длугаш памылкова называў яго мянушкай Васіла, бо А. даў прывілей падляшскаму г. Васілеў. А. уступіў у ордэн францысканцаў і набыў вядомасць як прапаведнік у Мазовіі (каля 1354), магчыма, прапаведаваў і ў язычніцкай Літве. З 1370 спавядальнік венгерскай каралевы Эльжбеты, якая далучыла А. да вял. палітыкі. У 1370 прызначаны першым біскупам сірэцкім для пашырэння каталіцтва і венгерскага ўплыву ў Малдове. У 1372 яму даручана апека над Галіцкай каталіцкай епархіяй. У 1377—82, відаць, быў суфраганам (дапаможным біскупам) гнезненскім, праводзіў актыўную дыпламатычную дзейнасць. Набліжаны да каралевы *Ядвігі*, паўплываў на заключэнне яе шлюбу з вял. князем ВКЛ Ягайлам, за што ў 1388 пераведзены з Сірэцкага на Віленскае біскупства. Праводзіў хрысціянізацыю Літвы, будаваў касцёлы (кафедральны ў Вільні, парафіяльныя ў Вількаміры, Мейшаголе, Немянчыне, Крэве, Абольцах, Гайне). Заснаваў францысканскія кляштары ў Лідзе (1397) і Ашмянах, кафедральную школу ў Вільні. Стаў адным з давераных асоб Ягайлы, а пасля і вял. кн. Вітаўта, удзельнічаў у заключэнні ім *Салінскага дагавора 1398*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Андрэй Альгердавіч** (?—12.8.1399), князь полацкі,пскоўскі. Верагодна, старэйшы сын вял. князя літоўскага *Альгерда* і яго 1-й жонкі, віцебскай князёўны. Упершыню ўпамінаецца пад 1342, калі Пскоў, спадзеючыся на падтрымку Альгерда, прыняў А.А. як князя. Пазбаўлены пскавічамі княжання ў 1349. Пасля гібелі кн. *Нарымонта* ў бітве на Стрэве 1348 стаў полацкім князем. Мабыць, валодаў і Віцебскам. У цэлым прытрымліваўся знешнепаліт. курсу бацькі і аказваў яму актыўную дапамогу. Істотна пашырыў межы Полацкага княства на Пн. У 1350 пачаў вайну супраць Пскова. Зімой 1359—60 па загадзе Альгерда захапіў Ржэву на Волзе. У 1368 ваяваў цвярскія гарадкі Хорвач і Родню. Вясной 1372 разам з Кейстутам, Вітаўтам і Дзмітрыем Альгердавічам па просьбе цвярскога кн. Міхаіла Аляксандравіча хадзіў на Пераяслаў-Залескі і Кашын. У 1373, 1374, 1375 (двойчы) і 1376 рабіў выправы на ўладанні Інфлянцкага ордэна. Ва ўнутранай палітыцы абапіраўся на полацкае баярства, даючы яму землі. Пасля смерці ў 1377 Альгерда выказаў незадаволенасць прыходам да ўлады ў ВКЛ Ягайлы. Прэтэнзіі на ўладу ў ВКЛ выявіў, сярод іншага, у тым, што прыняў тытул вял. князя полацкага. Пасля зімовай аблогі войскам Ягайлы 1377—78 быў вымушаны ўцякаць з Полацка. Накіраваўся ў Пскоў, дзе зноў стаў князем, а потым праз Ноўгарад прыбыў у Маскву. Заключыў дагавор аб саюзе з вял. князем маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам. Зімой 1379—80 хадзіў на гарады Трубчэўск і Старадуб, якія належалі да ўдзела Дзмітрыя Альгердавіча, і пераканаў яго перайсці на бок Масквы. Разам з пскавічамі ўдзельнічаў у *Кулікоўскай бітве 1380* на баку рус. войска. У 1381 ці 1382 вярнуўся ў Полацк. Пасля заключэння Крэўскай уніі 1385 становішча А.А. пагоршылася. Шукаючы саюзнікаў, 10.10.1385 ён заключыў з магістрам Інфлянцкага ордэна дагавор, паводле якога перадаваў ордэну Полацкае княства і атрымліваў яго назад ужо ў якасці лена. У 1386 у саюзе з інфлянцкімі немцамі і смаленскім кн. Святаславам Іванавічам пачаў ваенныя дзеянні супраць Ягайлы. Падпарадкаваў Лукомль. Альянс, аднак, хутка распаўся. Адбыўся разрыў А.А. з крыжакамі, а Святаслаў пацярпеў паражэнне ад войска братоў Ягайлы ў *Мсціслаўскай бітве 1386*. Вясной 1387 войскі ВКЛ на чале са Скіргайлам і інфлянцкія немцы захапілі Полацк. А.А. быў узяты ў палон і зняволены ў Хэнцінскім замку ў Польшчы. 18.2.1394 па просьбе Вітаўта, а таксама Скіргайлы, Уладзіміра і Фёдара Альгердавічаў быў выпушчаны Ягайлам на свабоду. З'ехаў у Пскоў. У тым жа годзе ездзіў разам з пскавічамі ў Ноўгарад для заключэння міру. Загінуў у *бітве на Ворскле 1399*. Меў сыноў Міхаіла, Сямёна і Івана.



*Літ.*: S t a d n i c k i K. Bracia Władysława Jagiełły Olgierdowicza, króla Polski, wielkiego księcia Litwy. Lwów, 1867; W o l f f J. Ród Gedimina. Kraków, 1886; Д а н и л е в и ч В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896; Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. Вып. 1, 3. М., 1977, 1980; В а р о н і н В. Вялікія князі полацкія (канец XIV ст.) // Полацк: карані нашага радавода. Полацк, 1996.

***Васіль Варонін.***

**Андрэй Уладзіміравіч** (каля 1390—1457?), князь, адзін з найбуйнейшых правасл. магнатаў ВКЛ. Сын кіеўскага кн. *Уладзіміра Альгердавіча*, брат Алелькі (родапачынальніка *Алелькавічаў*) і Івана (родапачынальніка *Бельскіх*). Нарадзіўся, відаць, ад позняга шлюбу, незадоўга да смерці бацькі. Удзельнага княства, у адрозненне ад братоў, не атрымаў, аднак займаў высокае становішча ў ВКЛ, уваходзіў у велікакняжацкую раду. Уладальнік маёнткаў Лагойск, Гайна і Камянец у Менскім пав., Славенск у Ашмянскім пав., Палонна і Лемніца ў Віцебскай зямлі і інш. Завяшчаў пахаваць сябе ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Яго дачка Еўдакія (жонка камянецкага намесніка І.Рагацінскага) і сын Глеб (упамінаецца ў 1455) памерлі пры жыцці А.У. Пасля смерці А.У. Лагойск і Камянец перайшлі да вял. князя ВКЛ Жыгімонта Аўгуста і ў хуткім часе былі падараваны кн. А.Чартарыйскаму. Трэцяя частка маёмасці А.У. (Палонна і Лемніца), паводле тастамента, адышла да яго сваяка, полацкага баярына Сенькі Чарэйскага; астатнія маёнткі — да Фядоры Рагацінскай (каля 1450—1512), якая была замужам спачатку за кн. І.С.Кобрынскім, потым за Ю.Пацам, а пазней за М.Радзівілам Старым.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Анісіфар** Д з е в а ч к а (свецкае імя невядома, імя па бацьку Пятровіч; ?— паміж 1592 і 1594), мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі. Правіў правасл. царквой у ВКЛ у цяжкіх умовах унутранага крызісу і наступу каталіцызму. Пасля 1568 — архімандрыт Лаўрышаўскага манастыра. У 1579 абраны мітрапалітам, ад караля Стафана Баторыя атрымаў у пажыццёвае ўладанне і кіраванне Віленскі Святатроіцкі манастыр, дамогся зацвярджэння пры ім правасл. брацтва (1584). Жыў пераважна ў Навагародку (у 1584 віленскія мяшчане скардзіліся каралю, што мітрапаліт рэдка бывае ў Вільні). З імем А. звязана выданне ў друкарні Мамонічаў «Службоўніка» (1583). Дамогся ад Баторыя пацвярджэння прывілея Жыгімонта Старога аб незалежнай юрысдыкцыі правасл. царквы (1585), дазволу спраўляць правасл. царкоўныя святы паводле юліянскага календара (1586). Па яго хадайніцтве Жыгімонт III Ваза забараніў у 1589 пасля смерці духоўнай асобы аддаваць яго маёмасць у карыстанне свецкіх улад, спадчыну сталі перадаваць заступніку пасады. У ліп. 1589 канстанцінопальскім патрыярхам А. скінуты, а мітрапалітам прызначаны прыхільнік уніі М.*Рагоза*. У 1590 А. адмовіўся ад правоў на Святатроіцкі манастыр, але застаўся архімандрытам Лаўрышаўскага манастыра. Там і памёр.

*Літ.*: М а к а р и й (Б у л г а к о в). История Русской Церкви. М., 1996. Кн. 5. С. 225—255.

***Мікола Нікалаеў.***

**Анішчанка** Яўген Канстанцінавіч (н. 27.10.1955, в.Бранцава Аршанскага р-на), бел. гісторык. Канд. гіст. н. (1989). Скончыў БДУ (1978). У 1978—79 і 1981—83 выкладаў у сярэдніх навуч. установах, у 1983—85 — у Мінскім ін-це культуры. З 1985 у Ін-це гісторыі Нац. АН Беларусі (з 1993 старшы навук. супрацоўнік). Даследуе сац.-паліт. працэсы на Беларусі перыяду падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння бел. зямель да Рас. імперыі (1760—1840-я г.). Выдаў зб-кі дакументаў «Паўстанне і вайна 1794 г. ў Літоўскай правінцыі: (паводле дакументаў расійскіх архіваў)» [«Восстание и война 1794 года в Литовской провинции: (по документам российских архивов)». Масква, 2000], «Паўстанне і вайна 1794 года ў Літоўскай правінцыі: (паводле дакументаў архіваў Масквы і Мінска)» [«Восстание и война 1794 года в Литовской провинции: (по документам Москвы и Минска)», Мінск, 2001], «Стогн: Паўстанне і вайна 1794 года ў Літоўскай правінцыі» (Мінск, 2002); «Камісары Касцюшкі: Дакументы паўстання 1794 г. у Літоўскай правінцыі» (Мінск, 2004).

*Тв.*: Генеральнае межаванне на Беларусі. Мн., 1996; Беларусь у часы Кацярыны II (1772—1796 гг.). Мн., 1998; Черта оседлости: (Бел. синагога в царствование Екатерины II). Мн., 1998; Евреи Белорусской губернии: Ист. очерк и док. Мн., 2002; Генеральнае межаванне ў Беларусі: Дап. да кн. «Генеральнае межаванне ў Беларусі». Горкі; Магілёў, 2002; Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мн., 2003.

**Антановіч** Антон Канстанцінавіч (6.6.1910, в.Казлы Нясвіжскага р-на—27.12.1980), бел. мовазнавец. Д-р філал. н. (1969). Скончыў Віленскі ун-т (1950), да 1971 выкладаў у ім. Даследаваў помнікі старабел. пісьменства, у т.л. мову актавай кнігі ковенскага земскага суда 1566—67, помнікі татарска-мусульманскага пісьменства на бел. мове. У кн. «Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом, і іх графіка-арфаграфічная сістэма» («Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система», Вільнюс, 1968) прааналізаваў паходжанне, змест, асаблівасці графікі і арфаграфіі *кітабаў*. Выявіў 24 рукапісныя кнігі 17—пач. 20 ст. на бел. мове арабскім пісьмом. У працах А. шмат фактаў пра суадносіны бел. літаратурнай і жывой гутарковай мовы на розных этапах развіцця, пра фанетычныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці розных бел. нар. гаворак.

*Тв.*: Вопросы фонетики белорусского актового языка XVI в.: По материалам судебной (актовой) книги Каунасского земского суда 1566—1567 гг. // Уч. зап. Вильнюсского гос. ун-та. 1960. Т. 30. Языкознание, вып. 2; Графика и орфография судебной (актовой) книги Каунасского земского суда 1566—1567 гг. // Уч. зап. высш. учеб. завед. Лит. ССР. Языкознание. Вильнюс, 1961. Т. 3; К вопросу об отношении лексики китабов к лексике белорусской деловой письменности XV—XVII вв. // Программа и тезисы межресп. конференции по изучению лексики старобелорусских письменных памятников XV—XVII вв. 15—16 мая 1964 г. Вильнюс, 1964.

**Антановіч** (Антонович) Уладзімір Баніфатавіч [18.2(2.3).1834, паводле інш. звестак 1830, с. Махноўцы Бярдзічаўскага пав. Кіеўскай губ. — 8 (21).3.1908], украінскі гісторык, археолаг, этнограф, археограф; адзін з заснавальнікаў укр. нац. гістарыяграфіі. Чл.-кар. Расійскай АН (1901). Дацэнт (1870), праф. (1878) Кіеўскага ун-та. Скончыў мед. (1855, кароткі час працаваў урачом у Кіеўскай губ.) і гіст.-філал. (1860) факультэты Кіеўскага ун-та. Пад уплывам праф. М.А.Максімовіча і М.Дз.Іванішава прысвяціў сябе навукова-выдавецкай дзейнасці ў Кіеўскім цэнтр. архіве і Кіеўскай археагр. камісіі. У 1863—80 гал. рэдактар Часовай камісіі для разбору старажытных актаў у Кіеве. Доктарская дысертацыя — «Нарыс па гісторыі Вялікага княства Літоўскага да смерці Альгерда» (1878).



З 1880 дэкан гіст.-філал. ф-та Кіеўскага ун-та. Кіраўнік Гіст. т-ва Нестара-летапісца (з 1881). На падставе пераважна ім самім выяўленых матэрыялаў напісаў шэраг навук. даследаванняў, якія вылучаліся навізной фактычнага матэрыялу, самастойнасцю агульнай навуковай пабудовы: «Нарыс адносін польскай дзяржавы да праваслаўя і праваслаўнай царквы» («Очерк отношений польского государства к православию и православной церкви», Кіеў, 1866, 2 выд. Вільня, 1867), «Нарыс гісторыі Вялікага княства Літоўскага да сярэдзіны XV ст.» («Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия», вып. 1, Кіеў, 1878) і інш. Працы па гісторыі Украіны, Беларусі і Літвы пазней склалі зб. «Манаграфіі па гісторыі Заходняй і Паўднёва-заходняй Расіі» («Монографии по истории Западной и Юго-западной России», т. 1, Кіеў, 1885). Кіраваў выданнем *«Архіў Паўднёва-Заходняй Расіі»*, выдаў некалькі тамоў з уступнымі манаграфіямі, якія выходзілі таксама асобнымі выданнямі: «Пра паходжанне шляхецкіх родаў у Паўднёва-Заходняй Расіі» («О происхождении шляхетских родов в Юго-Западной России», Кіеў, 1867), «Нарыс становішча праваслаўнай царквы ў Паўднёва-Заходняй Расіі паводле актаў (1650—1798)» [«Очерк состояния православной церкви в Юго-Западной России по актам (1650—1798)», Кіеў, 1871] і інш. Пад рэдакцыяй А. і К.Казлоўскага выдадзены «Граматы вялікіх князёў Літоўскіх з 1390 па 1569 год» («Грамоты великих князей Литовских с 1390 по 1569 год», Кіеў, 1868). Апублікаваў шэраг мемуарных і эпісталярных крыніц: «Дыярыуш» Ф.Еўлашоўскага (1866), запіскі Міхалона Літвіна «Пра норавы татар, літвінаў і маскавітаў» (1890).

*Літ.*: Памяти члена-учредителя Исторического общества Нестора-летописца заслуженного ординарного профессора Владимира Бонифатьевича Антоновича (8 марта 1908 г.): Сб. речей. Киев, 1909; Сын України: Володимир Боніфатійович Антонович. Т. 1—3. Київ, 1997; Ульяновський В., Короткий В. Володимир Антонович: образ на тлі епохи. Київ, 1997 (змешчана бібліяграфія прац А.); Михальченко С.И. Киевская школа в российской историографии (В.Б.Антонович, М.В.Довнар-Запольский и их ученики). М.; Брянск, 1997.

***Наталля Мазоўка.***

**антытрынітарыі** (ад грэч. anti супраць + лац. trinitas тройца), прыхільнікі хрысц. плыней і абшчын, якія адмаўляюць догмат пра трыадзінства Бога (Тройцу). Рух і вучэнне А. бяруць пачатак у 2—3 ст., калі ўсталёўваліся асн. догматы хрысціянства. Вучэнне асуджана ўсяленскімі саборамі, але ў сярэднія вякі яго прытрымліваліся прыхільнікі наміналізму, асобныя ерэтычныя рухі. Нярэдка ідэі антытрынітарызму былі своеасаблівай праявай вальнадумства. У сваіх поглядах А. абапіраліся на вучэнне неаплатанізму, пантэізм, зыходзілі з таго, што першапачатковае хрысціянства не прадпісвала ніякіх догматаў. Веру ў Тройцу яны лічылі лагічным непаразуменнем, народжаным недасканаласцю схаластычнага мыслення. З адмаўленнем Тройцы А. спалучалі пераасэнсаванне боскай прыроды Хрыста, што падрывала хрысц. версію замагільнага жыцця. Многія А. лічылі смерць натуральным працэсам, Святы Дух трактавалі не як самаст. субстанцыю, а як атрыбут Бога-айца. Яны патрабавалі ўзгаднення палажэнняў рэлігіі з розумам, адстойвалі права кожнага чалавека свабодна чытаць і інтэрпрэтаваць Біблію.

Распаўсюджанне ідэй антытрынітарызму на Беларусі ў 16 ст. звязана з рэфармацыйным рухам у Зах. Еўропе, прадстаўнікі якога (Г.Бляндрата, П.Альтыяці, В.Джэнтылі і інш.) наведвалі ВКЛ. Умацаванню руху А. на Беларусі садзейнічалі таксама творы ісп. мысліцеля М.Сервета «Сем кніг памылковых поглядаў на Тройцу», «Аднаўленне хрысціянства» і інш. На аснове рэліг. рацыяналізму А. фарміравалася айч. атэіст. думка (*К.Бекеш, С.Лавейка, Ф.Даманеўскі, Я.Л.Намыслоўскі, К.Лышчынскі* і інш.). У 16 ст. ў руху А. у ВКЛ утварыліся 2 кірункі: памяркоўны і радыкальны. Прадстаўнікі першага (С.*Будны*, В.*Цяпінскі* і інш.) для абгрунтавання сваіх поглядаў выкарыстоўвалі антычную спадчыну і абвяргалі апалагетыку схаластыкі, якая пры дапамозе сафістыкі імкнулася абараніць хрысц. догматы. Яны адзначалі непазбежнасць сац. расслаення грамадства, выступалі ў абарону дзярж. ладу, былі прыхільнікамі яго паступовага эвалюц. ўдасканалення. Ідэолагі радыкальнай плыні (*Якуб з Калінаўкі, Пётр з Ганёндза, Павел з Візны*, М.*Чаховіц*), якія адстойвалі інтарэсы і грамадскія ідэалы нар. мас, імкнуліся не да часовых рэформ, а да радыкальных сац.-паліт. пераўтварэнняў, выступалі супраць прыватнай уласнасці, саслоўных прывілеяў, сац. і маёмаснай няроўнасці, патрабавалі скасавання дзярж. ін-таў. Большасць з іх адмоўна ставілася да філас. і тэалагічнай спадчыны, прызнавала толькі аўтарытэт Свяшчэннага пісання і асабістай веры. Важную ролю ў рацыяналізацыі дактрыны А.,ператварэнні яе з рэліг. у філасофскую адыграла распаўсюджанне ў ВКЛ *сацыніянства*. А. зазналі ганенне каталіцкай царквы і артадаксальнага пратэстантызму. У 1647 друкарні і школы А. зачынены, а ў 1658—60 іх паслядоўнікі выгнаны з Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Górski K. Studia nad dziejami polskiej literatury antytrynitarskiej XVI w. Kraków, 1949; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Саверчанка І.В. Сымон Будны: Гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993; Szczucki L. Antytrynitaryzm w Europie Wschodniej // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 1979. T. 24; Tazbir J. Reformacja w Polsce. Szkice o ludziach i doktrynie. Warszawa, 1993.

***Сяргей Яцкевіч.***

**антыфеадальная вайна 1648—51** на Беларусі, вайна народных мас супраць пануючага класа феадалаў, для якой характэрны масавыя сумесныя выступленні сялян, казацка-сял. атрадаў і змыканне іх з рухам гар. нізоў. Барацьба мела яскрава выражаны антыфеад. характар. Нар. масы змагаліся супраць феад. прыгнёту, самавольстваў феадалаў і іх адміністрацыі, за паслабленне павіннасцей, вынішчэнне шляхты — гал. віноўніка прыгнёту. Аднак ні сяляне, ні гар. нізы яшчэ не ставілі за мэту змену феад. фармацыі і нац. вызваленне. Гэта была не традыц. барацьба супраць феад. прыгнёту, а бітва буйных супрацьлеглых сіл — казацка-сял. атрадаў, ніжэйшых слаёў мяшчанства з аднаго боку, і войска ВКЛ, якое складалася з наёмнікаў і шляхецкага апалчэння, — з другога. У вайне прымалі ўдзел амаль усе сац. групы насельніцтва, уключаючы заможную частку мяшчанства і нават правасл. духавенства. Прадстаўнікі двух апошніх дзейнічалі не паслядоўна, у залежнасці ад паліт. абставін, далёка не заўсёды падзяляючы імкненні сял. масы.

Важную ролю ва ўздыме антыфеад. руху на Беларусі ў сярэдзіне 17 ст. і ператварэнні яго ў А.в. адыграла паўстанне на Украіне пад кіраўніцтвам Б.*Хмяльніцкага*. Ужо першыя звесткі пра перамогі Хмяльніцкага пад Жоўтымі Водамі і Корсунем у маі 1648 выклікалі




Аўтар В.І.Мялешка

ўзброеныя выступленні бел. сялян і гараджан, асабліва ў суседніх з Украінай раёнах. Пінскі падстараста 20.8.1648 даносіў падканцлеру ВКЛ К.Л.Сапегу, што паўстаўшыя сяляне «нападаюць на шляхецкія маёнткі, паляць іх, шляхціцаў караюць смерцю, больш багатых купцоў да бедных раўняюць». Для падтрымкі нар. руху на Беларусі Хмяльніцкі накіраваў сюды летам 1648 з-пад Белай Царквы і Корсуня казацкія загоны (атрады) на чале з Я.Галавацкім, І.Галотам, А.Нябабам, Гладкім, Гапалічам, Хвэсько і інш., у значнай ступені ўкамплектаваныя беларусамі. Адначасова Хмяльніцкі адсылаў да «Гомеля и за Днепр аж до Борисова и далей, до Быхава теж, Могилева и далей» універсалы з заклікам да насельніцтва брацца за зброю і выступаць супраць магнатаў і шляхты. Заклікі дзейнічалі, тым больш што яны былі падмацаваны прыходам у бел. паветы добра ўзброеных і арганізаваных казацкіх фарміраванняў. Гэта давала вял. надзеі бел. сялянству на поспех у барацьбе супраць шляхты і шляхецкага войска. Ужо да восені 1648 жыхары паўд. бел. гарадоў Мазыра, Турава, Гомеля, Рэчыцы, Лоева і іх наваколляў «усе паказачыліся і пакляліся адзін другому стаяць да апошняга».

У летнюю кампанію 1648 казацка-сял. атрады атрымалі шэраг перамог над шляхецкім апалчэннем і наёмным войскам ВКЛ. Каля Рэчыцы былі разбіты харугвы пад камандаваннем польнага пісара ВКЛ У.Валовіча, пад мяст. Горвалем — буйны атрад на чале з Р.Мірскім. Казакі і сяляне-паўстанцы авалодалі Гомелем, Лоевам, Чачэрскам, Брагінам, Бабруйскам, Мазыром і інш. гарадамі і мястэчкамі на Пд і ПдУ Беларусі. Жыхары амаль не аказвалі арганізаванага супраціўлення. Шляхта і духавенства, напалоханыя поспехамі казацка-сял. войска, ратаваліся ўцёкамі ў глыб ВКЛ. Пуціўльскі ваявода Пляшчэеў паведамляў у Маскву цару Аляксею Міхайлавічу: «А которые де, государь, литовские городы по сю сторону Днепра, и ис тех де, государь, литовских городов из всех паны, и державцы, и урядники, и ляхи, и жиды все выбежали з женами и з детьми за Днепр в королевские городы, а остались де в тех литовских городех одне мещане и пашенные мужики». Баявыя дзеянні на Беларусі мелі важнае значэнне і для войска

Хмяльніцкага на Украіне, бо скоўвалі значныя сілы праціўніка. Так, войскі польнага гетмана ВКЛ Я.*Радзівіла* не змаглі ўдарыць з тэр. Беларусі ў тыл укр. казацкаму войску, і яно ў вер. 1648 атрымала перамогу над польскім войскам пад Піляўцамі. Гэта перамога ўцягнула ў антыфеад. барацьбу новыя сілы насельніцтва. Паводле сцвярджэння Радзівіла, яна «падняла дух усёй рускай чэрні не толькі ў каралеўстве, але і ў Вялікім княстве Літоўскім». «Нават у тых месцах, дзе стаіць войска, — паведамляў Радзівіл вял. гетману ВКЛ Я.Кішку, — сяляне, узбуджаныя казакамі на дзёрзкія ўчынкі, пачынаюць паўставаць і збірацца ў лясах». У выніку ўсё большая колькасць прыгонных Беларусі бралася за зброю і граміла сваіх паноў. У пачатку кастр. 1648 некалькі тысяч сялян-паўстанцаў з Давыд-Гарадоцкай вол. выбралі са свайго асяроддзя палкоўнікаў і сотнікаў «спосабам казацкім» і напалі на маёнтак кн. М.С.Чацвярцінскага. Яны разграмілі панскі двор у Воранаве, да смерці збілі ўрадніка К.Дзелячынскага, знішчылі гранічныя лісты, рэестры, інвентары, падатковыя квітанцыі і інш. дакументы. Стругі паўстанцаў спустошылі двор шляхціца Я.Макрыцкага, а яго самога ўтапілі ў рацэ. У тую ж восень на барацьбу са шляхтай падняліся тураўскія сяляне. Некалькі сотняў «паказачаных» паўстанцаў «починивши межи себе полковников, сотников, писаров, атаманов, есавул... впавши се в злость хлопскую... великие и незносные кривды и шкоды починили» панам сваім. У маёнтку Семагошчы яны разбурылі двор шляхціца Янкоўскага, паразганялі ўсіх сельскіх войтаў і абралі новых. Затым каля 400 узброеных сялян накіраваліся ў Тураў, жыхары якога «былі ім радыя і абяцалі ва ўсім дапамагаць». На чале паўстанцаў стаяў Пракоп Цэўка. З Турава сяляне разам з гараджанамі рабілі налёты на Лахву і Давыд-Гарадок. Але ў хуткім часе пацярпелі паражэнне ў сутычцы са шляхецкім войскам. Селянін з-пад Лахвы Яўхім Бяжэйчык, які трапіў у палон, паведамляў, што з сялянамі было каля 2 тыс. тураўскіх гараджан. Такія ж аб'яднаныя атрады дзейнічалі і ў іншых бел. гарадах. У Мазыры тутэйшы мешчанін Іван Сталяр стаяў на чале атрада, сфарміраванага з «черни здешних краёв», колькасцю 400 чал. У ліст. 1648 казацкая харугва была створана з гараджан Ігумена. Яе ўзначаліў ігуменец Грыбовіч. У Рэчыцы налічвалася каля 3 тыс. паўстанцаў, палову якіх складалі казакі, палову — сяляне. Новаму вітку ўздыму антыфеад. руху на Беларусі паспрыяла пасылка сюды Хмяльніцкім пасля перамогі пад Піляўцамі чарговых казацкіх загонаў. У данясенні пасольскаму прыказу сеўскі ваявода паведамляў, што «беларусцы де, государь, всякие черные люди всех городов и уездов, которые городы за казаками, стоят против поляков с казаками заодно». Супольнасць у барацьбе давала плён. У Кобрыне, напрыклад, казацка-сял. атрады пад кіраўніцтвам Гладкага разбілі полк драгунаў стольніка ВКЛ В.А.Гасеўскага. У Мазырскім пав. яны перамаглі войска Валовіча, захапілі Пінск. У пачатку кастр. 1648 казакі пад камандаваннем Крывашапкі занялі Чэрыкаў, адкуль рабілі наезды на шляхецкія маёнткі Мсціслаўскага ваяв. Калі супраць іх быў накіраваны атрад полацкіх шляхціцаў на чале з кн. Лукомскім, «крестьяне, собрався в деревне Мляных, того князя Лукомского людей побили наголову, а самого ранили».

Такі паварот падзей на Беларусі занепакоіў кіруючыя колы Рэчы Паспалітай. Па загадзе вял. князя ВКЛ і караля польскага Яна II Казіміра пачалі фарміравацца новыя шляхецкія апалчэнні, павялічвалася колькасць наёмнай ваеннай сілы. Гэтыя войскі сцягваліся на Пд і ПдУ Беларусі, каб прыкрыць бел. землі ад казацкага пранікнення і потым задушыць тут выступленні нар. мас. Агульнае кіраўніцтва войскам, якое налічвала восенню 1648 12—14 тыс., было даручана Радзівілу. Першым горадам, які адчуў удар моцнага, узброенага артылерыяй войска, стаў Пінск (гл. *Пінска абарона 1648*). Пінчукі вырашылі абараняць горад «да апошняй магчымасці і біць ляхаў». Прапанова войта Л.Ельскага здаць горад радзівілаўскаму войску была адвергнута. Няскоранасць каштавала жыцця многім абаронцам. 10.10.1648 пасля працяглай абароны войску Мірскага ўдалося захапіць горад. Пераможца «мяшчан пабіў больш за 3000 чалавек і жонак іх і дзяцей загадаў пабіць без літасці». Пінск быў зруйнаваны. Шляхецкае войска на чале з кн. Друцкім-Горскім авалодала Чэрыкавам. Горад спазнаў тое ж вынішчэнне, што і Пінск: «белорусцев всех посекли». Многіх жыццяў каштаваў казацка-сял. атрадам штурм Старога Быхава ў снеж. 1648 пад кіраўніцтвам *І.Гаркушы* і *С.Падбайлы*. Паўстанцы ваявалі таксама каля Менска і Навагародка. 30.12.1648 у Ігумене яны разграмілі буйны атрад войска Кішкі пад камандай харужага ВКЛ Я.Паца.

Асн. баявыя дзеянні па задушэнні паўстання на Пд Беларусі разгарнуліся ў 1649. У пач. студзеня Радзівіл аб'яднаў вял. сілы і рушыў ад Берасця на Тураў, Петрыкаў, Мазыр і далей. Гэта быў крывавы шлях. У Тураве па загадзе Радзівіла ўсе жыхары, якія засталіся ў горадзе пасля адыходу паўстанцаў, былі перабіты. Пасля ўпартай барацьбы за Мазыр, што прынесла абодвум бакам вял. страты, радзівілаўскае войска адолела паўстанцаў. Казацкі кіраўнік Міхненка быў узяты ў палон і «паводле княжацкага загаду пакараны смерцю праз адсячэнне галавы, якая пасля была ўваткнутая на замкавай вежы». Пагромам падвергліся Чачэрск, Лоеў і інш. гарады. У Чачэрску пераможцы «выбрав 150 человек [казакоў] отсекли правые руки по запястья, а 50 де человек на колья посажали, а достольных де казаков и их жон и детей порубили всех». Многа казакоў загінула і ў час *Бабруйска абароны 1649*. Бязлітасна расправіўся гетман і з жыхарамі горада, «мещан де всех, которые



Да арт. **Антыфеадальная вайна 1648—51**. Я.Радзівіл прымае капітуляцыю Кіева. Малюнак А. ван Вестэрфельда. 1651. (Копія 18 ст.).



и город ему отворили, мучил из животов и руки отсек у 800 человек, постинал 150 человек, на паля повзбиял больши 100 человек, и такую де невинную кровь пролил без ума, для своей корысти». Скарыстаўшы перамір'е паміж Хмяльніцкім і Янам II Казімірам, войскі Радзівіла занялі амаль усю тэрыторыю ўздоўж Прыпяці, Дняпра, Друці. У выніку паўстанцы на Беларусі апынуліся адрэзанымі ад укр. казакоў. Туды, дзе адбываліся ўзброеныя выступленні, пасылаліся атрады шляхецкіх і наёмных войск «городы воевать и белорусцев сечь». Радзівіл, «да Вицентий Гасевской, да стражник Великого княжества Литовского Мирский и иные многие урядники ходят в Великом княжестве Литовском и пустошат королевские ж городы и села и деревни... Только в котором городе были черкасы или гультайство, и они тех мучат, посягая на благочестивую християнскую веру, а наипаче из животов, и жены их и дети и животы посылают в свои маетности; и пограбя мещанские животы и разоря их совсем, на паля взбивают и рубят без милости, даючи причину, будто они Речи Посполитой издрайцы, а черкасом и гультайству доброхоты и с ними одноверцы».

Аднак поўнасцю задушыць узброеную барацьбу нар. мас Радзівіл не здолеў. Летам на Беларусь зноў прыйшлі казацкія загоны Гаркушы, Падбайлы, *М.Крычэўскага* і інш. Да казакоў паўсюдна далучаліся сяляне. У ліп. адбылася *Лоеўская бітва 1649*. Узятыя ў палон войскам Радзівіла казакі на допыце сказалі, што да Крычэўскага «далучылася некалькі тысяч рознага роду мужыкоў», што да яго «ідзе мноства мужыкоў, з усіх вакольных сёлаў, хоць яны іх не вярбуюць». Некалькі тысяч «холопов» улілося ў атрад М.*Нябабы*. Барацьба працягвалася і каштавала шматлікіх чалавечых жыццяў, у т.л. казацкіх атаманаў Галоты, М.Нябабы, Крычэўскага і інш. Казакі пацярпелі паражэнне ў *Лоеўскай бітве 1651*. Становішча паўстанцаў яшчэ больш пагоршылася пасля паражэння войска Хмяльніцкага пад Берасцечкам. У адпаведнасці з Белацаркоўскім мірным дагаворам 1651 казацкія атрады былі выведзены з Беларусі на Украіну. Гэта дало магчымасць пануючаму класу Рэчы Паспалітай да восені 1651 падавіць узброеныя выступленні бел. сялянства і гар. нізоў і такім чынам спыніць А.в. 1648—51. 4.8.1651 войска Радзівіла без бою заняло Кіеў. На працягу 1652—53 у некаторых месцах Беларусі адбываліся разрозненыя ўзброеныя выступленні. Аднак шляхта хутка душыла іх ваенннай сілай.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Костомаров Н.И. Собр. соч.: Ист. монографии и исслед. Кн. 4, т. 9—11. Богдан Хмельницкий. СПб., 1904; Лочмель И.Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов. М., 1940; Шчарбакоў В.К. Сялянскі рух і казацтва на Беларусі ў эпоху феадалізма. Мн., 1935; Яго ж. Крестьянское движение Белоруссии XVI и XVII вв. // Ист. сб. 1935.№ 4; Шуляковский Х.Г. Из истории борьбы белорусского народа с польским панством в XVII в. // Уч. зап. Ленингр. ун-та. Сер. ист. наук. 1940. Т. 67, вып. 7; Шуляковский Е.Г. Участие белорусского народа в освободительной войне 1648—1654 гг. // Вопр. истории. 1954. № 5; Похилевич Д.Л. Белорусское казачество // Наук. зап. Львівського державного ун-ту. Сер. іст. Львів, 1957. Вып. 6; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Документы об освободительной войне украинского народа, 1648—1654 гг. Киев, 1965; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1978; Нарысы гісторыі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1994; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w powieści *Ogniem i mieczem* a jego rzeczywista rola w walce z powstaniem Chmielnickiego// Epoka «Ogniem i mieczem» we współczesnych badaniach historycznych. Warszawa, 2000.

***Васіль Мялешка.***

**Ануфрыеўскі манастыр.** Існаваў у 15—19 ст. у в. Ануфрыева Мсціслаўскага ваяв. (з 1976 в. Сялец Мсціслаўскага р-на). Паводле царк. падання, засн. ў 1407 мсціслаўскім кн. *Лугвенам* Альгердавічам у глухім лесе, на месцы, дзе яго малому сыну Юрыю з'явіўся св. Ануфрый і паказаў дарогу дадому. У 1635 кароль Уладзіслаў IV зацвердзіў манастыр за уніятамі. Яго ігуменам лічыўся архіепіскап смаленскі. Да сярэдзіны 18 ст. ўсе будынкі, у т.л. царква св. Ануфрыя, былі драўляныя. У апошняй чвэрці 18 ст. пабудавана мураваная царква і да яе ўпоперак далучаны корпус манастыра. Манастыру належаў суседні фальварак. У 1809 будынак манастыра перададзены ваеннаму ведамству. Паводле інвентара 1817, бібліятэка налічвала 302 кнігі, у т.л. 6 рукапісных. Манастыр зачынены ў час скасавання уніяцкай царквы. Зальны храм з высокай франтальнай вежай стаў прыходскай царквою, захаваўся ў напаўразбураным стане.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Ануфрый**, вялікі князь (полацкі?). Вядомы са зробленага ў Полацкім Евангеллі 14 ст. ад яго імя запісу, паводле якога Полацкаму манастыру Іаана Прадцечы на Востраве дадзены людзі і бортныя землі на рэках Сомніца, Ула і Нача, на мяжы з Віцебшчынай, а таксама права лавіць рыбу ў воз. Лісна. Запіс мае супярэчнасці і неадпаведнасці ў змесце і палеаграфіі: А. называецца то князем, то вял. князем; адсутнічае геагр. частка тытула, пры гэтым размяшчэнне падараваных аб'ектаў указвае на Полацкую зямлю. Відаць, запіс быў сфальсіфікаваны ў манастыры Іаана Прадцечы на Востраве ў 15 ст. ці 1-й пал. 16 ст. Тым не менш, нельга цалкам выключыць, што падробка абапіралася на ранейшы запіс (запісы) падобнага зместу. Пытанне аб гістарычнасці асобы А. застаецца адкрытым.

*Літ.*: Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. Вып. 1, 3. М., 1977, 1980.

***Васіль Варонін.***

**Анцута** Ежы Казімір (?, Падляшша—16.5.1737), дзеяч каталіцкай царквы ў ВКЛ. Родны або стрыечны брат *М.Ю.Анцуты*. Доктар абодвух правоў. Вучыўся ў Віленскай акадэміі і папскім ун-це «Сапіенца» ў Рыме. Віленскі канонік у 1708—24, афіцыял з 1714, прэпазіт каралеўскай капліцы св. Казіміра, рэферэндар духоўны ВКЛ з 1715, тытулярны біскуп антыпатрэнскі і суфраган віленскі з 1723, плябан навагародскі і ляхавіцкі з 1724, віленскі кантар з 1724, схаластык з 1728 і архідыякан з 1731. Пад яго імем езуіт С.*Сакульскі* выдаў 2 кнігі супраць іншаверцаў.

***Валерый Пазднякоў.***

**Анцута** Мацей Юзаф (?—18.1.1723), дзеяч каталіцкай царквы ў ВКЛ. Родны або стрыечны брат Е.К.*Анцуты*. Пробашч у Шатах, Вількаміры, Свіры, канонік інфлянцкі, смаленскі і віленскі з 1695, афіцыял віленскі, рэферэндар духоўны ВКЛ у 1705—17 (атрымаў пасаду дзякуючы падтрымцы ў ВКЛ Аўгуста II), тытулярны біскуп мізінапалітанскі і суфраган віленскі з 1710, кусташ віленскі з 1714, каад'ютар з 1717. Пасля смерці віленскага біскупа К.К.Бжастоўскага (1722) фактычна заняў яго пасаду. Збудаваў касцёлы ў Вількаміры, Салоках, пачаў будаўніцтва парафіяльнага касцёла ў Новагародку. У 1710 падпісаў акт *Сандамірскай канфедэрацыі*.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Апісанне дакументаў архіва заходнярускіх уніяцкіх мітрапалітаў»** («Описание документов архива запад-

норусских униатских митрополитов»), археаграфічнае выданне рэгестаў архіва уніяцкіх мітрапалітаў у Рэчы Паспалітай і Рас. імперыі. Падрыхтавана Камісіяй па разборы і апісанні архіва Свяцейшага Сінода ў Пецярбургу, складальнік — С.Р.Рункевіч. Выдадзены 2 т. (1897—1907), якія ахопліваюць дакументы 1470—1700 і 1701—1839. У прадмовах Рункевіч ахарактарызаваў структуру, прынцыпы выдання і тэмы, якія асвятляюць дакументы архіва. У «Апісанні...» змешчаны храналагічны пералік дакументаў з указаннем іх датавання, мовы, аўтараў і адрасатаў з падрабязным або кароткім выкладам зместу (часам дакументы надрукаваны цалкам). У некат. выпадках адзначаны ступень захаванасці дакумента, наяўнасць пячатак, ранейшыя публікацыі. Сярод дакументаў лісты на падараванне правасл. і уніяцкім цэрквам і манастырам зямельных уладанняў, суд. справы адносна царк. уладанняў, пасланні правасл. і уніяцкіх іерархаў, лісты вял. князёў ВКЛ і польскіх каралёў да епіскапаў і мітрапалітаў, унутрыцаркоўная перапіска па адміністрацыйных і маёмасных справах, гасп. дакументы царк. уладанняў, царк. метрычныя кнігі. Дакументы архіва асвятляюць маёмасны і юрыд. стан правасл. і уніяцкіх цэркваў у Беларусі, Літве і Украіне ў канцы 15—1-й пал. 19 ст., падрыхтоўку і ажыццяўленне царк. уніі, палітыку рас. улад у дачыненні да уніяцкай царквы. Выданне забяспечана імянным, геагр. і прадметным паказальнікамі. Перад 1-й сусв. вайной Б.М.Жуковіч падрыхтаваў да выдання 3-і том «Апісання...» з пералікам і характарыстыкай інвентароў, люстрацый, візітацый, табеляў царк. уладанняў і рухомай маёмасці 1684—1824, а таксама з апісаннем зб-каў царк. дакументаў пераважна 18 ст., аднак том не быў надрукаваны. Выданне мае вял. значэнне для асвятлення царк. гісторыі Беларусі. Пералік дакументаў з архіва уніяцкіх мітрапалітаў (цяпер зберагаецца ў Рас. дзярж. гіст. архіве ў Пецярбургу), якія маюць непасрэднае дачыненне да Беларусі і часткова ўвайшлі ў «Апісанне...», змешчаны ў выданні «Архіў уніяцкіх мітрапалітаў» (Мінск, 1999, вып. 1).

*Літ.*: Пятидесятилетие Высочайше утвержденной Комиссии по разбору и описанию Архива Святейшего Синода, 1865—1915: Ист. записка. Пг., 1915; Марозава С.В. Архіў уніяцкіх мітрапалітаў (Санкт-Пецярбург) // Замежная архіўная беларусіка. Мн., 1998.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Апісанне дакументаў і папер, што захоўваюцца ў Маскоўскім архіве Міністэрства юстыцыі»** («Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерства юстиции»), серыйнае выданне Мін-ва юстыцыі Рас. імперыі. Т. 21, выдадзены ў Маскве ў 1915, прысвечаны апісанню некат. кніг *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага*, якая ў той час зберагалася ў архіве міністэрства. Падрыхтаваны С.К.Шамбінагам і М.Г.*Беражковым*. Ва ўводзінах асветлена гісторыя Метрыкі пасля 1794, калі яна была вывезена ў Расію, яе склад, работа па складанні яе вопісаў, змест апісаных у выданні архіўных кніг. У асн. частцы выдання змешчаны рэгесты (кароткія апісанні) дакументаў 5-й (часткова), 6-й, 7-й, 8-й, 9-й, 10-й, 11-й і 12-й кніг запісаў Метрыкі (дакументы за канец 15—пач. 16 ст.) з раскрыццём іх зместу, датамі, указаннямі на ранейшыя публікацыі. У дадатку надрукавана цалкам 1-я кніга запісаў Метрыкі, дзе былі зроблены апісанні асобных дакументаў 15—16 ст., якія не зберагліся да нашага часу. Выданне мае імянны і геагр. паказальнікі.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Апісанне земляў»**, невялікі геаграфічны трактат 3-й чвэрці 13 ст. невядомага аўтара, каталіцкага місіянера, які прапаведаваў у Прыбалтыцы сярод язычнікаў у часы Міндоўга. Напісаны на лац. мове. У ім даецца кароткае геагр. апісанне тагачаснай Еўропы, месцазнаходжанне розных краін і земляў, у т.л. Прусіі, Яцвягіі, Жамойці, Літвы, Русі, аўтар гаворыць пра звычаі прыбалтыйскіх плямён, паведамляе пра хрышчэнне і каранацыю Міндоўга і інш. Трактат — самая ранняя гіст. крыніца, у якой упершыню згадваецца Белая Русь (Alba Russia). Паводле кантэксту твора аўтар меў на ўвазе сумежную з Літвой і Латгаліяй зах. частку тагачаснай Русі, г.зн. тэр. сучаснай паўн.-ўсх. Беларусі. Трактат змяшчаецца ў пачатку Дублінскага рукапісу — зборніка 2-й пал. 13 ст. (уключае розныя творы на лац. мове: вершы, пропаведзі, дыдактычныя трактаты, запавет св. Францыска, прароцтвы Іахіма Флорскага, кароткі ірландскі летапіс, даведзены да 1174, і інш.). Помнік адкрыў і ўпершыню апублікаваў у арыгінале амерыканскі вучоны М.Колкер. Захоўваецца ў б-цы Англіканскага ун-та ў Дубліне (Ірландыя).

*Публ.*: Апісанне земляў / Пер. з лац. А.Жлуткі // Адраджэнне: Гіст. альманах. Вып. 1. Мн., 1995.

*Літ.*: Чамярыцкі В., Жлутка А. Першая згадка пра Белую Русь — XIII ст.!// Адраджэнне: Гіст. альманах. Вып. 1. Мн., 1995.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Апісанне рукапіснага аддзялення Віленскай публічнай бібліятэкі»** («Описание рукописного отделения Виленской публичной библиотеки»), археаграфічнае выданне гіст. дакументаў 14—19 ст. Выдадзена Камісіяй па стварэнні Віленскай публічнай б-кі ў 1895—1906 (вып. 1—5). У падрыхтоўцы выдання прымалі ўдзел *Ю.Ф.Крачкоўскі, Ф.М.Дабранскі, К.І.Снітка, А.І.Мілавідаў*. Выпускі «Апісання...» складаюцца з вял. прадмоў, дзе ахарактарызаваны рукапісныя дакументы і зборнікі б-кі, тэмы, якія яны асвятляюць, апісання рукапісаў з раскрыццём іх зместу і дадаткаў (займаюць асн. частку выпускаў), дзе апублікаваны тэксты найб. важных дакументаў. Рукапісы б-кі паходзілі з розных царк. і прыватных збораў, у т.л. з архіва віленскай капітулы. Надрукаваны зборнік прывілеяў Пінскаму францысканскаму кляштару 1396—1740, акт размежавання ВКЛ і Лівоніі 1449, кніга пратакольных пастаноў віленскай капітулы 1501—1783 (складзена Ф.К.М.*Богушам*), інвентар завілейскіх маёнткаў віленскага біскупа М.Зяньковіча 1731, рэвізія г.Бельск 1779, зборнік дакументаў г.Беласток 18 ст., кніга візітацыі Вільні 1828 з апісаннем касцёлаў, дамоў віленскай капітулы, епархіяльнага архіва; прывілеі гарадам ВКЛ на магдэбургскае права, акты падаравання зямель феадалам, касцёлам і цэрквам, акты куплі-продажу маёнткаў феадалаў і інш. Дакументы выдання маюць вял. значэнне для асвятлення сац.-эканам. і царкоўнай гісторыі Беларусі і ВКЛ.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Аповесць пра Баву»**, помнік беларускай перакладной літаратуры, сярэдневяковы рыцарскі раман. Узнік у Францыі. Бел. пераклад зроблены ў 2-й пал. 16 ст., відаць, з сербскага тэксту і паслужыў крыніцай шэрагу рас. спісаў. Збярогся ў адзіным рукапісе сярэдзіны 16 ст. ў т.зв. *«Пазнанскім зборніку»*. Мае займальны любоўна-авантурны сюжэт. Тыпалагічна блізкі да твораў гераічнага эпасу. Паслужыў крыніцай для нар. казкі пра Баву.

*Публ.:* Веселовский А.Н. Из истории романа и повести: Материалы и исслед. Вып. 2. Славяно-романский отдел. СПб., 1888.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***



**«Аповесць пра Даўмонта»**, гісторыка-літаратурны твор, складзены ў 2-й чвэрці 14 ст. ў Пскове як жыццяпіс пскоўскага кн. *Даўмонта*. Першапачатковая рэдакцыя складаецца з некалькіх апавяданняў. У іх паведамляецца, як у 1266 нальшчанскі князь Даўмонт з дружынай прыбыў у Пскоў, бо «побишася Литва межи собою» (маецца на ўвазе забойства вял. князя ВКЛ *Міндоўга*), тут хрысціўся і быў пасаджаны на пскоўскі стол. Хутка Даўмонт зрабіў паход у землі літ. князя *Гердзеня*, паланіў яго жонку і 2 дзяцей. Пасля апісаны паходы Даўмонта на г. Ракавор і ў Памор'е, яго бітвы з літоўцамі і лівонскімі рыцарамі, абарона Пскова ад ворагаў. У «Аповесці...» змешчана пахвала Даўмонту, паведамляецца пра яго хваробу, смерць і пахаванне. Твор пазбаўлены павучальнасці і абстрактнасці, яго аўтар імкнуўся да канкрэтнасці і дакладнасці. «Аповесць...» была ўключана ў 1-ы і 2-і пскоўскія летапісы (гл. *Пскоўскія летапісы*), у пазнейшыя агульнарускія летапісныя зводы, наўгародскія летапісы 15—16 ст. Да 17 ст. «Аповесць...» неаднаразова перараблялася і дапаўнялася; даследчыкі вылучаюць 8 яе рэдакцый. Т.зв. сярэдняя рэдакцыя 16 ст. дапоўнена падрабязнасцямі пра літоўскі перыяд жыцця Даўмонта і сказаннем пра яго «брата» *Войшалка*.

*Літ.:* Охотникова В.И. Повесть о Довмонте: Исслед. и тексты. Л., 1985.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Аповесць пра Жыгімонта і Барбару Радзівіл»**, гісторыка-літаратурны твор, складзены ў сярэдзіне 16 ст., напэўна, у Вільні і змешчаны ў канцы *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* пад 1545—48 (Пазнанскі спіс). У аповесці апісана гісторыя кахання і шлюбу вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста і прыгажуні Барбары Радзівіл, якія, ідучы насустрач сваім пачуццям, патаемна павянчаліся ў Вільні. Невядомы аўтар з сатырычным адценнем намаляваў усеагульнае грамадскае асуджэнне ў ВКЛ і Польшчы шлюбу караля з бяздзетнай жанчынай-удавою некаралеўскага роду. Аднак каханне перамагло, Жыгімонт Аўгуст не адмовіўся ад Барбары і застаўся верны сваёй абранніцы. Гісторыя рамантычнага кахання Барбары і Жыгімонта знайшла даволі шырокае адлюстраванне ў польскай, літоўскай і бел. навук.-папулярнай і маст. л-ры.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Аповесць пра Падолле»**, помнік беларуска-літоўскага летапісання 1-й пал. 15 ст. Узнікла каля 1432—35 найверагодней у Вільні ў асяроддзі пануючых колаў ВКЛ. Змешчана ў *Беларуска-літоўскім летапісе 1446* у канцы *«Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»*, у 16 ст. была ўключана ў склад *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *Хронікі Быхаўца*. Асн. змест — гісторыя Падольскай зямлі 2-й пал. 14—1-й трэці 15 ст., гісторыя яе далучэння да ВКЛ. Створана як паліт. дакумент з мэтаю абгрунтаваць гіст. права ВКЛ на Падолле і асудзіць палітыку польскіх феадалаў, якія пасля смерці Вітаўта захапілі яго зах. частку. Падзеі і факты, выкладзеныя ў творы, у асноўным адпавядаюць гіст. сапраўднасці. Напісана на старабел. мове дзелавым стылем без дат, вылучаецца публіцыстычнасцю стылю, свецкім характарам зместу.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Аповесць пра Скандэрбега»**, помнік рускай і беларускай перакладной літаратуры пач. 17 ст. Прысвечана апісанню нац.-вызв. барацьбы албанскага народа супраць турэцкага нашэсця ў 15 ст. пад кіраўніцтвам Г.Кастрыёці, празванага Скандэрбегам. З'яўляецца пераробкай раздзела «Пра Скандэрбега Македона, албанскага князя» з «Хронікі ўсяго свету» (1564) польск. гісторыка *М.Бельскага*. Асноўнай крыніцай для яго паслужыла белетрызаваная «Гісторыя жыцця і спраў Скандэрбега» (1508) албанца М.Барлеці, якая была вядома на Беларусі ў перакладзе Ц.*Базыліка* на польск. мову (Берасце, 1569). У параўнанні з польск. крыніцай аповесць дэмакратызавана: Скандэрбег у барацьбе з туркамі апіраецца не на феадалаў, а на народ, гуманна ставіцца да мірнага турэцкага насельніцтва. Захавалася ў 10 спісах, з іх 2 (Пагодзінскі і Мін-ва замежных спраў) з выразнымі бел. моўнымі асаблівасцямі. Служыла пазнанню гераічнага мінулага балканскіх народаў, выхаванню ў чытачоў патрыятычных пачуццяў.

*Літ.:* Повесть о Скандербеге. М.; Л., 1957.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Аповесць пра Таўдала»**, «Книга о Таудале-рыцери», помнік беларускай перакладной літаратуры 16 ст. Аснову сюжэта складае апісанне незвычайнага падарожжа па замагільным свеце душы рыцара Таўдала, які ад моцнага перапою часова страціў прытомнасць. Уражаны пакутамі грэшнікаў у пекле, герой каецца ў грахах і вырашае жыць праведна, па хрысціянскіх запаветах. Арыгінал аповесці пад назваю «Прывіды Тундала» ўзнік у 12 ст. на лац. мове ў Ірландыі. Бел. пераклад узыходзіць да чэшскай крыніцы. Вядомы ў адзіным спісе сярэдзіны 16 ст., які захоўваўся ў рукапісным зборніку б-кі Красінскіх у Варшаве і загінуў у час 2-й сусв. вайны.

*Літ.:* Кіпель З. Лёс беларускай аповесці аб Тундалі ў сьвятле беларуска-заходнеславянскіх узаемадачыненьняў // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 2001. Т. 20.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Аповесць пра трох каралёў»**, помнік беларускай перакладной літаратуры апакрыфічнага характару. Арыгінал твора напісаны ў 14 ст. ням. манахам Іаганам з Гільдэсгейма на лац. мове. На бел. мову перакладзены ў 2-й пал. 15 ст. Захаваўся ў 3 спісах. Найбольш ранні, Пецярбургскі, 15 ст. зберагаецца ў Рас. нац. б-цы ў складзе рукапіснага зб. разам з «Жыціем Аляксея, чалавека божага», «Страсцямі Хрыстовымі». У аснове аповесці евангельскі эпізод пра пакланенне нованароджанаму Ісусу Хрысту трох усходніх цароў-язычнікаў, якія пасля сталі шчырымі хрысціянамі. У творы апісваецца іх падарожжа ў Святую зямлю, прырода зямель Блізкага Усходу, побыт, звычаі, веравызнаўчыя і этнічныя асаблівасці розных народаў, у т.л. грэкаў, сірыйцаў, армян, грузін. Аповесць каштоўная як сведчанне духоўных запатрабаванняў пэўных слаёў бел. чытачоў 15—16 ст., адна з крыніц іх гісторыка-геагр. уяўленняў пра краіны Блізкага Усходу. Пераклад зроблены на высокім узроўні, мова без царкоўнаславянізмаў.

*Публ.:* Перетц В.Н. Повесть о трех королях-волхвах в западнорусском списке XV века // Памятники древней письменности и искусства. СПб., 1903. Т. 150.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Аповесць пра Трышчана»**, помнік беларускай перакладной літаратуры, папулярны сярэдневяковы рыцарскі раман. Перакладзены на бел. мову ў 2-й пал. 16 ст. з сербскай крыніцы, якая ўзыходзіла да італьянскага арыгінала. Бел. пераклад збярогся ў спісе сярэдзіны 16 ст. ў *«Пазнанскім зборніку»*, у якім пад агульным загалоўкам («Повесть о витязях с книг сэрбских...») змешчана таксама «Аповесць пра Баву», а ў канцы — «Гісторыя пра Атылу» і тэкст поўнай



Старонка **«Аповесці пра Трышчана»**.

рэдакцыі бел.-літоўскай «Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага». У аснове рамана паэт. кельцкая легенда пра ўзнёслае каханне рыцара Трыстана і каралевы Ізольды (у бел. рэдакцыі — Трышчана і Іжоты), што ў шматлікіх літаратурных апрацоўках на працягу стагоддзяў бытавала сярод народаў Еўропы. «А. п. Т.» — унікальны слав. варыянт літаратурнай апрацоўкі славутай легенды, помнік бел. культуры 16 ст. Бел. пераклад зроблены ў свецкім асяроддзі, вылучаецца творчым падыходам да тэксту, багаццем бел. літаратурнай мовы таго часу. Бел. рэдакцыя аповесці перакладзена на сербска-харвацкую (Бялград, 1966), італьян. (Фларэнцыя,1983) і англ. (Лідс, 1977; Нью-Йорк; Лондан, 1988) мовы.

*Публ.:* Легенда о Тристане и Изольде. М., 1976; Аповесьць пра Трышчана // Спадчына. 1998. № 5—6; 1999. № 1.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**аптэка** (грэч. apothēkē склад, кладоўка), медыцынская ўстанова, у якой гатуюць, захоўваюць і прадаюць лекавыя сродкі, перавязачны матэрыял, прадметы догляду за хворымі і інш. У сярэднія вякі *магдэбургскае права* давала гарадам прывілей на продаж «зёлак». З пісьмовых крыніц вядома, што ў 15 ст. лекавыя сродкі з Беларусі вывозілі ў суседнія землі. Упамінанні аб першых А. на Беларусі адносяцца да сярэдзіны 16 ст. (Пінск, 1561; Берасце, 1566). Паводле даследаванняў В.П.Грыцкевіча, у 16—18 ст. на тэр. Беларусі было не менш як 40 аптэк, што належалі прыватным асобам ці каталіцкім кляштарам. У маёнтках некаторых магнатаў былі дамашнія А., якія размяшчаліся ў спец. будынках. Захаваўся будынак езуіцкай аптэкі, заснаванай у Гародні ў 1687 і пабудаванай у 1709. Мэбля, унутраны выгляд, выраблены на месцы посуд і абсталяванне адпавядалі аналагічным узорам еўрапейскіх А. У іх былі кнігі па фармацэўтыцы, рукапісныя зборнікі рэцэптаў, на падставе якіх гатаваліся лекі, нярэдка з дзесяткаў інградыентаў. Каштавалі лекавыя сродкі, як правіла, дорага, іх кошт быў абумоўлены колькасцю і характарам кампанентаў. Асноўная частка лекавых сродкаў была расліннага паходжання. Лекавую сыравіну збіралі ў натуральных умовах — на зямельных участках, якімі надзяляліся А. і якія называліся аптэкарскімі агародамі. У А. прадавалі таксама прыправы, кандытарскія вырабы, алкагольныя напіткі, парфуму. Падрыхтоўка аптэкараў праводзілася на ўзор цэхавага вучнёўства.

*Літ.:* Крючок Г.Р. Очерки истории медицины Белоруссии. Мн., 1976; Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины. Мн., 1987; Zuba K. Aptekarze i apteki w dobrach Radziwiłłów linii nieświeskiej w XVII wieku // Kwartalnik historii kultury materialnej. 2001. № 4.

***Яўген Цішчанка.***

**арабскае пісьмо**, алфавітная сістэма пісьма арабаў і шэрагу іншых мусульманскіх народаў. Выкарыстоўвалася *татарамі*, якія ў 14—15 ст. пасяліліся ў ВКЛ і паступова пачалі ўжываць бел. і польск. мовы. Для абазначэння некаторых бел. гукаў, якіх няма ў арабскай і цюркскіх мовах, былі створаны спец. літары, напр., для перадачы мяккіх «дз» і «ц», «ж», «ч», «п». У выніку з'явіліся рукапісныя помнікі, напісаныя А.п. на бел. і польскай мовах: *кітабы, тэфсіры, тэджвіды, хамаілы*. Некаторыя фанетычныя асаблівасці бел. мовы ў гэтых помніках адлюстраваны лепш, чым у тэкстах, запісаных кірыліцай або лацінкай.

*Літ.:* Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система. Вильнюс, 1968; Павленко Н.А. История письма. 2 изд. Мн., 1987.

***Юсуф Крыніцкі.***



Да арт. **Арабскае пісьмо**. Фрагмент Аль-Кітаба.

**арбалет** (франц. arbalete ад позналац. arcuballista: лац. arcus лук + ballista кідальная зброя), **б а л і с т а**, **с а м а с т р э л**, **к у ш а**, механізаваны лук, прымацаваны да ложа-прыклада пры дапамозе шнуроў, скураных рамянёў ці пары металічных петляў. Ложа забяспечвалася прыстасаваннем для ўтрымання цецівы ў нацягнутым стане і спускавым механізмам. Цеціва першапачаткова нацягвалася ўручную, з 13 ст. для гэтага пачалі ўжываць разнастайныя прыстасаванні (нацяжны крук, «казіная нага», англійскі і нямецкі калаўроты). Арбалетныя балты (стрэлы) былі карацейшыя, але мелі больш масіўныя дрэўкі, чым у звычайных стрэл. Наканечнікі балтоў, кароткія і гранёныя, былі прыстасаваныя для прабівання засцерагальнага ўзбраення. На землях, што ўваходзілі ў ВКЛ, А., відаць, з'явіўся ў канцы 12 ст. Міндоўг меў у 1253 атрады наёмных нямецкіх арбалетчыкаў. У канцы 14 ст. А. — тыповая зброя вояроў ВКЛ. Эфектыўнымі былі А. ў барацьбе з мабільнай татарскай конніцай у *бітве каля Сініх Вод 1362* і ў *бітве на Ворскле 1399*.

У канцы 14 ст. ўпамінаюцца як важны артыкул, імпартуемы ў ВКЛ з Польшчы. У 14 ст. выкарыстоўваліся і цяжкія А., якія вырашалі тыя ж задачы, што і артылерыя. Пры археал. раскопках элементы спускавых механізмаў А. знойдзены ў Мсціслаўлі (2 спускавыя куркі-рычажкі 15 ст.), Берасці, Вільні, Гародні (касцяныя «арэхі» 14—15 ст.); наканечнікі балтоў сустракаюцца пры раскопках амаль усіх гарадоў і замкаў. У ВКЛ А. выкарыстоўваліся да пач. 16 ст.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002.

***Юрась Бохан.***

**арган** (ад грэч. organon прылада, інструмент), клавішна-духавы муз. інструмент. Пашырэнне А. ў ВКЛ звязана з распаўсюджваннем каталіцтва. Упершыню яны ўпамінаюцца ў 1408. У сярэдзіне 16 ст. таксама актыўна выкарыстоўваліся А. ў кальвінісцкім набажэнстве. Адметнасцю было выкарыстанне А. і ў грэка-каталіцкай (уніяцкай) літургіі. Асновай яе развіцця быў росквіт культавага дойлідства ў ВКЛ ў 16—18 ст. Большасць дакументаў пра А. ў 16 ст. тычацца Вільні, ёсць звесткі пра А. ў 16—17 ст. у Гародні, Нясвіжы, Берасці, Менску, Пінску, Паставах, Жыровічах, Ружанах, Смаленску, Магілеве. У 17 ст. А. былі ва ўсіх важнейшых віленскіх святынях. У гэты перыяд у Вільні мелася 16 інструментаў рознай велічыні, некат. з іх згадваюцца ў справах еўрап. арганнага буд-ва.

Сярод шматлікіх арганных майстроў, што працавалі ў 18 ст., найб. вылучаецца сям'я Каспарыні італа-сілезскага паходжання. Адам Готліб, Дамінік Адам і Адольф Готліб Каспарыні мелі майстэрні ў Каралячы, будавалі А. на землях ВКЛ, Прусіі, Інфлянтаў.

Пачынаючы з 13 ст. ў ВКЛ развівалася муз. каталіцкая культура зах.-еўрап. тыпу, з яе спецыфічнымі метадамі навучання і адукацыі. Навучыцца касцельнаму спеву і ігры на А. і інш. інструментах, атрымаць агульную адукацыю можна было ў метрызах — пеўчых школах, што былі пашыраны ў 15—18 ст. у краінах Зах. Еўропы. У 1579 езуіты адкрылі акадэмію ў Вільні, дзе ў 1651 была створана бурса са спец. выкладаннем музыкі, у т.л. ігры на А. Іншыя езуіцкія калегіумы ВКЛ таксама мелі муз. бурсы. Сярод выхаванцаў Віленскай акадэміі найб. знакамітымі былі музыканты-тэарэтыкі, аўтары муз.



**Арган** Праабражэнскага касцёла ў в. Новая Мыш Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобл. 1762.

трактатаў *З.Лаўксмін* і *М.Дылецкі*. Значную частку свайго жыцця правёў у Віленскай акадэміі кампазітар і арганіст *Я.Брант*. Лепшыя музыканты групаваліся вакол заможных двароў, працавалі ў вял. касцёлах. У Кракаве арганістамі прыдворнага касцёла служылі італьянцы Д.Като ў 1590—1615, Дж.Ф.Мафон (каля 1592), Я.Сава (1590—93). У 1580-я г. да брацтва св. Ганны ў Вільні запісаны арганісты А.Блюм, Я.Сарна, Мафон. У 17 ст. працавалі арганісты Я.Зубрыцкі (Нясвіж), Л.Лапчынскі (Пінск), А.Жывіцкі (Паставы), пры двары Жыгімонта III Вазы служыў адзін з лепшых бел. арганістаў А.Масяжкоўскі. Прыкладам найб. даўняй бел. арганнай музыкі з'яўляецца творчасць А.*Рагачэўскага*, прыдворнага арганіста А.С.Радзівіла. Яго 4-галосая канцона і 9-галосы матэт запісаны ў Пельплінскай арганнай табулатуры 1620—30-х г.

Яскравым сведчаннем росквіту бел. уніяцкай культуры 16—17 ст. з'яўляецца *«Полацкі сшытак»* — арганная нотная табулатура, крыніца рэпертуару вакальнай, вакальна-інстр. і інстр. музыкі ў ВКЛ. Яна адлюстроўвае розныя бакі выкарыстання А. ва уніяцкім асяроддзі. Італьянскія ўплывы выявіліся ў т.зв. Арганнай кніжачцы 1626 (рукапіс належаў францысканскаму касцёлу ў Вільні). Яна ўяўляе сабой збор неабходнай арганнай музыкі, адлюстроўвае палітру арганных жанраў сваёй эпохі і практыку іх выканання. Сярод арганістаў 18 ст. — Т.Самаловіч, Ф.Скарульскі, Т.Крэмінскі, В.Касцевіч, Я.Фок са Слоніма (Вільня), А.Варанец, Шымкевіч (Нясвіж), С.Сянкевіч, Я.Савіцкі (Заслаўе), Паўцнэр — арганіст *Слуцкай капэлы Радзівіла*. Цікавым узорам бел. каталіцкай муз. культуры 1-й пал. 18 ст. з'яўляецца «Меса для аргана» Шымкевіча («Missa composita est a authore Szymk-



**Арган** касцёла дамініканцаў у Вільні. Майстар А.Г.Каспарыні. 1776.



**Арган** 17 ст. З тагачаснай гравюры.

iewicz servindum est in solo organo et solus ritus subscriptus»). Гісторыі А. ў ВКЛ і на Беларусі прысвечаны публіцыстычны кінафільм «Арганы Беларусі: Краявіды жыцця і смерці» (1995, рэж. М.Жданоўскі, аўтар сцэнарыя У.Неўдах).

*Літ.*: Неўдах У. Cantantibus organis: Беларуская арганная культура ў кантэксьце эўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу. Мн., 1999; Trilupaitienė J. XVII a. Lietuvos vargonų muzikos bruožai Sapiegų rankraštyje // Menotyra. 2000. № 3; Paknys M. Vargonų meistrai Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje // Там жа. 2001. ą 2.

***Уладзімір Неўдах.***

**арган**, шматствольная агнястрэльная зброя 16—18 ст. Ствалы розных калібраў і памераў размяшчаліся гарызантальна ў некалькі ярусаў накшталт аргана (адсюль назва) на спец. станку з коламі або прымацоўваліся да тоўстай дошкі. Паводле пісьмовых крыніц, А. быў у арсеналах Чарсвят (1523), Быхава (1692, 8 А. з мушкетных ствалоў), Нясвіжа і Слуцка (1767, па 4 12-ствольных А.). Выраблялі А. ў многіх гарадах Беларусі: Быхаве, Нясвіжы, Полацку, Слуцку і інш.

**ардынацкі суд**, прыватнаўласніцкі суд у *ардынацыях* Рэчы Паспалітай у 16—18 ст. Склад суда вызначаў уладальнік ардынацыі (ардынат), звычайна ў яго ўваходзілі староста (намеснік) ардынацыі, падстараста, пісар. А.с. мог называцца замкавым або гродскім. Аб'ядноўваў функцыі дзярж. *гродскага суда* і *земскага суда*, разглядаў маёмасныя, крымінальныя і грамадзянскія справы. Падсуднымі А.с. былі залежыя ад уладальніка ардынацыі шляхта, мяшчане, ваеннаслужачыя, татарскае і яўрэйскае насельніцтва і інш. Суд вёўся паводле норм агульнадзярж. права, мог выносіць і смяротныя прысуды. На Беларусі А.с. дзейнічалі ў Нясвіжы (сесіі таксама ў Міры), Клецку, Давыд-Гарадку.

**ардынацыя** (ад лац. ordinatio упарадкаванне), 1) збор прававых нормаў, якімі кіраваліся ўстановы, арганізацыі, суды ў Рэчы Паспалітай. 2) Збор прававых норм, якія рэгулявалі спадчыннае права на нерухомую маёмасць пэўных магнацкіх родаў у Рэчы Паспалітай, а таксама адпаведнае зямельнае ўладанне. Асн. прынцыпы А. — неадчужальнасць і непадзельнасць зямельнага ўладання, якое пасля смерці ўладальніка (ардыната) пераходзіла да старэйшага нашчадка старэйшай мужчынскай лініі (прынцып прымагенітуры), жанчыны за нашчадкаў не лічыліся. Упершыню ў ВКЛ спробу стварыць А. зрабіў у 1555 гаспадарскі маршалак і менскі староста В.Тышкевіч, які ў сваім тастаменце пастанавіў, каб усе яго маёнткі пераходзілі ў спадчыну толькі па мужчынскай лініі. Тастаментамі 1567 і 1570 ён вылучыў сваім нашчадкам выключна па мужчынскай лініі толькі Лагойскі маёнтак (без прынцыпу прымагенітуры). Аднак Тышкевіч і яго спадчыннікі тэрмінаў «А.» і «ардынат» не ўжывалі. 20.7.1586 М.К.*Радзівіл* Сіротка і С.*Радзівіл* заключылі дамову аб заснаванні на аснове сваіх уладанняў дзвюх А., да якой 16.8.1586 далучыўся А.*Радзівіл*. Створаныя такім чынам Нясвіжская, Клецкая і Алыцкая А. мелі 2 гал. прынцыпы: яны не маглі адчужацца і перадавацца ў спадчыну па жаночай лініі. Зацверджаны 10.12.1586 каралём Стафанам Баторыем і соймам 1589. У 1595 Сіротка ўстанавіў прынцып прымагенітуры пры атрыманні ў спадчыну Нясвіжскай А., што было пашырана на астатнія радзівілаўскія А. Пасля А. стварылі магнаты Замойскія (зацверджана соймам у 1589), Мышкоўскія (1601, Пінчаўская А.), Астрожскія (1609). У канцы 18 ст. Сулкоўскія заснавалі дзве А. — Рыдзынскую (1775) і Бельскую (ужо на тэрыторыі, падлеглай Рас. імперыі). Астрожская А. спыніла існаванне ў сярэдзіне 18 ст., астатнія працягвалі існаваць у Рас. імперыі і Польск. рэспубліцы і былі скасаваны сеймам у 1939. Гал. мэтамі пры заснаванні А. былі імкненне захаваць матэрыяльны падмурак магутнасці пэўнага роду і меркаванні прэстыжу (тытул ардыната ў Рэчы Паспалітай стаў адпаведнікам зах.-еўрап. феад. тытулаў).

*Літ.*: Mełeń A. Ordynacje w dawnej Polsce // Pamiętnik historyczno-prawny. 1926. Z. 2; Zielińska T. Ordynacje w dawnej Polsce // Przegląd historyczny. 1977. Z. 1; Спірыдонаў М.Ф. Першая ардынацыя ў Беларусі // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1996. № 8.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Ардынацыя каралеўскіх пушчаў у лясніцтвах былога Вялікага княства Літоўскага»**, («Ординация королевских пущ в лесничествах бывшего Великого княжества Литовского»), попіс каралеўскіх лясных масіваў у ВКЛ 1636—40, выдадзены Віленскай археаграфічнай камісіяй паралельна на польскай і рус. мовах у 1871. Ардынацыя (упарадкаванне) праведзена паводле універсала і спец. інструкцыі Уладзіслава IV Вазы каралеўскімі камісарамі лоўчым ВКЛ К.П.Ісайкоўскім, канонікам віленскім, каралеўскім сакратаром Я.Пацам і маршалкам упіцкім К.Белазорам. Тэкст ардынацыі складзены на польскай мове пісарам скарбовым ВКЛ П.Сшадзінскім і замацаваны подпісам караля з прыкладаннем пячаткі ВКЛ, подпісамі рэферэндара ВКЛ М.Трызны, Белазора і Сшадзінскага. Ардынацыя мела на мэце ўстанаўленне межаў каралеўскіх пушчаў, вызначэнне правоў шляхты і мясц. насельніцтва на іх карыстанне, арганізацыю кіравання лясной гаспадаркай і вызначэнне статуса асоб, якія выконвалі спец. абавязкі ў створаных лясніцтвах. Працягвала дзярж. палітыку, абвешчаную рэвізіяй 1559 (гл. *«Рэвізія пушчаў і пераходаў звярыных у былым Вялікім княстве Літоўскім»*) і «Лясной уставай» 1567. Змяшчае попіс пушчаў у 20 лясніцтвах: Рудніцкім, Межырэцкім, Ольшынскім, Лепунскім, Аранскім, Пералайскім, Мерацкім, Язерскім, Салацкім, Сакольскім, Навадворскім 1-м, Перштунскім, Пераломскім, Белавежскім, Камянецкім, Берштанскім, Навадворскім 2-м, Забалоцкім, Конеўскім, Дубіцкім. Лясніцтвы складаліся з асобных дзялянак ці «кватэраў», у якіх вызначаны «ўступы» — месцы, дзе

дазваляўся ўваход у пушчы. Вышэйшае кіраванне каралеўскімі пушчамі ажыццяўлялў лоўчы ВКЛ. На месцах знаходзіліся ляснічныя і спецыяльна прызначаныя паляўнічыя, асочнікі, стралкі, вартаўнікі. Пры попісе адзначаліся населеныя месцы на тэр. лясніцтваў, пералічваліся сяляне, іх павіннасці, колькасць зямлі ў гаспадарках. Названы таксама рыбакі, дымары, настаўнік (бакалаўр у Рудніках), каваль. Часам пералічаліся дакументы шляхты на права валодання, указваліся прывілеі асобам і царк. арганізацыям на права карыстацца лясамі, сенажаці. Мелася таксама апісанне азёр, рэчак, лугоў. Выданне забяспечана паказальнікамі імён, геагр. назваў і рэчаў.

*Валянцін Голубеў.*

**ардынскія слугі**, ардынцы, катэгорыя насельніцтва на ўкр. землях ВКЛ у 14—16 ст. Іх асн. павіннасцю было суправаджэнне і абслугоўванне велікакняжацкіх паслоў і ганцоў у Арду. Павінны былі ездзіць на вайну на конях і са зброяй, выконвалі таксама падводную павіннасць, стацыю, рабілі гаці і грэблі. Валодалі спадчыннымі (айчызнымі) і падараванымі землямі. Мабыць, былі асабіста вольнымі. Ардынскую службу маглі выконваць таксама путныя слугі і мяшчане, калі бралі ў трыманне «ардынскую зямлю». Некаторыя А.с. вызваляліся ад ардынскай службы і ў 16 ст. перайшлі ў саслоўі баяр і шляхты.

*Літ.*: Я к о в е н к о Н.М. Українська шляхта з кінця XIV до середини XVII ст. (Волинь і Центральна Україна). Київ, 1993. С. 222—225.

*Валерый Пазднякоў.*

**ардыншчына**, дзяржаўны падатак у ВКЛ у 15—16 ст., які ішоў на выплату даніны крымскаму хану. Накладвалася на валасць, горад ці мястэчка, спаганялася з мяшчанскага і сял. саслоўяў. У гады спагнання А. з падаткаплацельшчыкаў, як правіла, не збіраўся дзярж. падатак на патрэбы войска — *сярэбшчына*. У адрозненне ад грашовай сярэбшчыны А. пераважна сплачвалася пушнінай.

*Літ.*: Д о в н а р - З а п о л ь с к и й М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 701—704.

*Павел Лойка.*

**аркебуза**, а р к а б у з (ад франц. arquebuse), від *ручніцы* ў 16 ст., лёгкая стрэльба калібрам каля 10 мм, найчасцей з колавым замком і т.зв. «нямецкім» прыкладам — кароткім, масіўным і шматгранным. У ВКЛ, відаць, выкарыстоўваліся з пач. 16 ст., аднак назва «А.» вядома з сярэдзіны 16 ст. Існаваў падзел на доўгія і кароткія А. У 2-й пал. 16—17 ст. А. шырока выкарыстоўваліся ў кавалерыі т.зв. аркебузерамі. Пазней была выціснена *карабінам*.

*Літ.*: Ż y g u l s k i Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. Warszawa, 1982; Б о х а н Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002.

*Юрась Бохан.*

**Арсеній** (Старац; ?—1681), разьбяр па дрэве, майстар *беларускай рэзі*. Манах Куцеінскага Богаяўленскага манастыра пад Оршай. Пасля 1655 працаваў у майстэрні Іверскага манастыра на Валдаі; магчыма, удзельнічаў у стварэнні разных дзвярэй сабора гэтага манастыра. Пазней выконваў работы для Васкрасенскага сабора Новаіерусалімскага манастыра (цяпер г. Істра Маскоўскай вобл.). У 1667 узначальваў майстэрню разьбяроў у Аружэйнай палаце Крамля. Кіраваў работай па аздабленні драўлянай разьбой палаца ў Каломенскім (цяпер у межах Масквы). Стварыў «іарданскую сень» на 4 калонах для Суздаля (1668, цяпер — у саборы Раства Багародзіцы ў Суздалі).

*Літ.*: А б е ц е д а р с к и й Л.С. Белорусы в Москве XVII в.: Из истории рус.-бел. связей. Мн., 1957.

**артылерыя** (франц. artillerie ад старафранц. artillier рыхтаваць, забяспечваць), род войск, прызначаны для абслугоўвання і баявога выкарыстання артыл. ўзбраення — кідальных машын і гармат. Да 2-й пал. 14 ст. ў ВКЛ выкарыстоўвалася выключна кідальная А. — машыны, якія выкідалі снарады пры дапамозе механічнай энергіі, без ужывання пораху; для іх абслугоўвання патрабавалася некалькі асоб. Паводле крыніцы энергіі для выкідвання снарада вылучаецца неўрабалістычная і барабалістычная А. Неўрабалістычная А. дзейнічала на прынцыпе выкарыстання энергіі пругкасці эластычнага матэрыялу (сціснутага, сагнутага ці скручанага). У барабалістычных машынах снарад выкідаўся пры дапамозе 2-плечавога рычага, шляхам прыкладання большай сілы да карацейшага пляча. Найб. папулярнасцю карысталіся ў ВКЛ барабалістычныя рычажныя машыны, хоць маглі ўжывацца і цяжкія арбалеты, што стралялі вял. балтамі (стрэламі), ядрамі ці драўлянымі бэлькамі. З'яўленне і распаўсюджанне агнявой А. прывяло да выцяснення з ужытку кідальных машын. Звесткі аб іх выкарыстанні ў ВКЛ пазней за 1430-я г. адсутнічаюць. Агнявая А. (гарматы), вынайдзеная ў Кітаі, у Еўропе выкарыстоўваецца з 1326. Спачатку гарматы мелі выгляд флакона і стралялі снарадамі, падобнымі на вял. стралу, у далейшым — форму трубы з глухім тыльным канцом. Стрэлападобныя снарады выцясняліся каменнымі ці металічным ядрамі. У 14 ст. пачалі выраблялць спец. ложы пад гарматы, нерухома змацаваныя са ствалом і размешчаныя на козлах ці на колах, а ў 1-й пал. 15 ст. — лафеты. У сярэдзіне 15 ст. вынайдзены чопы, ці цапфы — металічныя выступы на ствале для злучэння з ложай. Прыстасаванне гармат для стральбы каменнымі або металічнымі ядрамі знаходзілася ў цеснай сувязі з канструкцыяй ствала.

Спецыфічнай рысай канструкцыі каменекідальных гармат (пушак) быў неаднолькавы дыяметр канала ствала па ўсёй даўжыні, які ў каморнай частцы, прызначанай для парахавога зарада, быў вузейшы. Адначасова каменекідальная А. характарызавалася адносна кароткім ствалом. Пушкі падзяляліся на катэгорыі, у аснове чаго ляжаў дыяметр ствольнага канала ў месцы вылету ядра — калібр. Пушкі вял. калібраў (*бамбарды*) прызначаліся для разбурэння ўмацаванняў. Цяжкія бамбарды былі нязручнымі для транспарціроўкі. У выніку ўзніклі шрубніцы са ствапамі з 2 частак, якія скручваліся перад непасрэдным ужываннем. Мадыфікацыяй бамбарды была марціра, якая мела кароткі ствол пры значным калібры. З марцір агонь вёўся па навяснай траекторыі. Лёгкія пушкі з калібрам да 230 мм (гуфніцы) належалі да палявой А.

Адметную канструкцыю мелі гарматы, прызначаныя для стральбы металічнымі снарадамі — пішчалі. Яны належалі да сярэдне- і даўгаствольнай А. і характарызаваліся значна меншым, чым у пушак, калібрам, а таксама роўным па ўсёй даўжыні каналам ствала, без звужэння ў каморнай частцы. Пішчалі ўжываліся для аблогі і абароны фартэцый, а таксама ў палявым баі. Пераважна для абароны фартыфікацыйных збудаванняў служылі *тарасніцы*. Даўгаствольныя гарматы малых калібраў — *серпанціны* складалі, разам з гуфніцамі, палявую А. Для павелічэння хуткастрэльнасці ў 1-й пал. 15 ст. былі сканструяваны гарматы з

заменнымі парахавымі каморамі (фоглеры). Павелічэнне хуткастрэльнасці дасягалася таксама праз размяшчэнне па некалькі гарматных ствалоў на адным лафеце (*арганы*).

У ВКЛ з агністрэльнай зброяй пазнаёміліся дзякуючы кантактам з Тэўтонскім ордэнам. У 1382 яе ўжылі ўжо самі літвіны на чале з Кейстутам пры аблозе крыжацкага замка Юрбурга. У 1399 войскі ВКЛ выкарысталі агністрэльную зброю ў палявым баі супраць татараў у бітве на Ворскле. Ужо ў канцы 14—1-й пал. 15 ст. ў ВКЛ ужываліся розныя тыпы гармат — пішчалі, гуфніцы, марціры і бамбарды, у т.л. каласальнай разбуральнай сілы. Ніканаўскі летапіс пры апісанні паходу Вітаўта на Ноўгарад у 1428 адзначае, што ў літвінскім войску знаходзілася «пушка велика велми, Галка именем, везяху ея на сороце конех от утра до обеда, а от обеда до полудни на иных сороце конех, а до вечера на иных сороце конех». У час аблогі Порхава з «Галкі» быў зроблены ўсяго адзін стрэл, пры якім яна разарвалася, аднак, калі верыць летапісцу, ядро разбурыла адну з вежаў, прабіла навылет царкву, збіла зубцы супрацьлеглай сцяны і, упаўшы за горадам, нарабіла шкоды ва ўласным жа войску. Крыніцы ВКЛ 2-й пал. 15 ст. фіксуюць пушкі вялікія (бамбарды), пушкі малыя (гуфніцы), пішчалі, тарасніцы, фоглеры з некалькімі парахаўніцамі. У 1-й пал. 16 ст. знікае тэрмін «пішчаль», а каменекідальныя пушкі, значэнне якіх падае, фігуруюць пад назвай «дзела», якая да сярэдзіны стагоддзя робіцца універсальнай. На старонках пісьмовых крыніц з'яўляюцца паўтарасніцы, шрубніцы і серпанціны з заменнымі парахавымі каморамі. Распаўсюджваюцца арганы і карцеч («штурмавыя руркі»). Дакладнага стандарта ў калібры гармат не існавала. Велічыня снарада ўказвалася даволі прыблізна — «поболш гусиного яйца», «около на пядь и на долонь», «с кулак» і г.д. Разам з тым, ужо ў сярэдзіне 16 ст. выкарыстоўвалася сістэма, што адпавядала нямецкай практыцы 1-й пал. 16 ст. У аснову градацыі гармат быў пакладзены іх калібр і адносная даўжыня ствала. У гарматным двары (людвісарні), заснаваным у Вільні каля 1540, меліся гарматы 21 віду: дзелы каменныя вялікія (5), дзелы каменныя малыя (6), шарфмецы (2), картаўны (4), паўкартаўны (8), салаўі (2), спявачкі (2), пішчыкі (1), бамбэніцы (1), нотшлангі (3), фельдшлангі (23), квартэршлангі (18), серпанціны (58), цмокі (4), агністыя дзелы (18), марціры вялікія (4), марціры сярэднія (10), марціры малыя (21), фальконы (52), фальканеты вялікія (81), фальканеты сярэднія (90). У 1551—65 значная частка віленскага арсенала была разаслана па замках ВКЛ і Лівоніі, прычым перавага аддавалася гарматам невял. калібраў, але максімальнай хуткастрэльнасці.







**Артылерыя**.
1—4 — гарматы з фігурнымі ўпрыгожаннямі работы Г.Мольтцфельда. Нясвиж. Канец 16 — пач. 17 ст.; 5 — адна — трохфунтовая палявая гармата корпуса артылерыі ВКЛ, зробленая на аўстрыйскі ўзор; 6 — двух — васьміфунтовая гаўбіца ВКЛ, зробленая на ўзор французскай гаўбіцы сістэмы Грыбаваля.

У 16—17 ст. гарматы ставілі на колы, у іх з'явіўся передок з зараднай скрыняй. На змену каменным і бронзавым ядрам прыйшлі жалезныя, чыгунныя і нават шкляныя. Сярод іх былі разрыўныя, запальныя, шрапнель, гранаты, карцеч. Істотна палепшана канструкцыя гармат: акрамя цапфаў з'явіліся дэльфіны (скобы на ствале), вінаград (дэталь на казне гарматы, што вытыркае) і прасцейшыя прыцэльныя прыстасаванні — мушка і прораз. Асн. маса гармат зараджалася з дула, але былі і казназарадныя. Ад апошніх адмовіліся ў перыяд уніфікацыі А. ў канцы 16—пач. 17 ст. У выніку тэхнічна-тэрміналагічнай рэформы гарматы сталі падзяляць на 3 тыпы: караткаствольныя марціры, якія стралялі па навясной траекторыі, калібр 28 і 81 фунтаў (210 і 300 мм); картаўны са ствaламі сярэдняй даўжыні, калібр 6—48 фунтаў (95—186 мм); калюбрыны з доўгімі люфамі, калібрам ад 1,5 унцыі да 40 фунтаў (23—175 мм). Пры кожнай гармаце быў неабходны інструмент: шуфлікі для насыпання пораху ў ствол, штэмпель для забівання зараду, баннік-«кажух» з барановай шкуры для чысткі канала ствала пасля стрэлаў, лянтоўніца з кнотам для падпалу зараду, вугламеры, пад'ёмныя механізмы для перасоўвання і пад'ёму гарматы, разнастайны шанцавы

інструмент. Ад хуткай стральбы ствол гарматы моцна разаграваўся і мог трэснуць. Тады стральбу спынялі і ствол ахалоджвалі: накрывалі вільготным палотнішчам, лілі ў яго халодную ваду і прачышчалі баннікам. Паводле еўрап. традыцыі, гарматам у ВКЛ у 16—17 ст. давалі ўласныя імёны. Так, у віленскім арсенале ў сярэдзіне 16 ст. меліся гарматы «Вітаўт», «Жабрак», «Баба», «Аўгуст», «Жыгімонт І», «Жыгімонт Аўгуст». Імёны дапаўняліся ваяўнічымі лацінамоўнымі дэвізамі. У Нясвіжскім замку былі гарматы «Саламандра», «Кракадзіл», «Гідра», «Сава», «Папугай», «Святы Ян», «Святы Міхал», «Святы Мацвей» і інш., у Ляхавіцкім замку — «Баба», «Негр», «Спявак», «Кіт», «Малпа», «Змяя» і інш. Як правіла, на ствале гармат былі адліты фігуркі жывёл, птушак або святых, імем якіх яны называліся. Асобныя гарматы Нясвіжскага замка мелі выгляд калоны, ствала дрэва, абвітага вінаградам. Надпісы раскрывалі назву гарматы. «Гідра. Рыхтую жалобу, хутка крану чорнай адмецінай», «Папугай. Усіх раблю мёртвымі, каго ўдару крывой дзюбай», «Сава. Катастрофу прадказваю кожнаму, хто прыдзе як разбуральнік», «Хімера. Знішчаю ворага вогненным горлам разяўленай хімеры» і г.д. У 16—18 ст. у ВКЛ не было адзінай цэнтральнай людвісарні, якая б задавальняла ўсе патрэбы ў А. Акрамя віленскай, дзейнічалі невял. «дзелалейні» ў Нясвіжы, Слуцку, Быхаве, Магілёве, Друі, Віцебску, Полацку, Жытоміры і інш. гарадах, якія рабілі гарматы для сваёй абароны. У арсеналах гарадоў было нямала трафейных гармат — шведскіх, нямецкіх, маскоўскіх. Старыя гарматы зберагаліся доўга. Напр., у Полацкім Верхнім замку ў 1552 яшчэ захоўваліся бамбарды часоў Вітаўта, а ў Ляхавіцкім замку ў 1658 стаялі 2 шведскія гарматы адліўкі 1559 калібрам 1,5 і 5 фунтаў і 12-фунтавая нямецкая гармата 1590. Разарваныя і старыя бронзавыя гарматы паступова, у цэнтралізаваным парадку, дастаўлялі на гарматны двор у Вільню, дзе іх пераплаўлялі.

Таблица 1

**Тэхнічныя характарыстыкі асноўных відаў гармат 2-й пал. 16 ст. ў ВКЛ**
(паводле Т.Новака)

| Тып і від гарматы | Ствол | | Ядро | | Колькасць стрэлаў за дзень |
|---|---|---|---|---|---|
| | Вага, ц | Даўжыня, калібраў | Вага, фунтаў | Калібр, мм | |
| *Даўгаствольныя гарматы (больш за 28 калібраў):* | | | | | |
| Бамбеніца | 67 | 50 | 11 | 116 | ? |
| Пішчык | 67 | 50 | 11 | 116 | ? |
| Нотшланга | 60-39 | 34 | 20-13 | 141-120 | ? |
| Фельдшланга | 33 | 39 | 7 | 96 | 40 |
| Фалькона | 24 | 38 | 5,5 | 88 | 50 |
| Квартэршланга | 17 | 34 | 3,5 | 75 | 60 |
| Фальканет вялікі | 9,5 | 35 | 2 | 56 | 70 |
| Фальканет сярэдні | 5,5 | 36 | 1 | 48 | 80 |
| Серпанціна | 2,5 | 38 | 0,5 | 30 | 80 |
| *Сярэдняствольныя гарматы (12—28 калібраў):* | | | | | |
| Шарфмеца | 111 | 19,5 | 55 | 198 | 30 |
| Картаўна | 85 | 18 | 42 | 175 | 30 |
| Салавей | 75 | 18 | 31 | 158 | 30 |
| Спявачка | 60-58 | 17-20 | 54-50 | 194-188 | 30 |
| *Каменекідальныя гарматы:* | | | | | |
| Каменнае вялікае дзела | 85 | 8 | 124 | 375 | 20 |
| Агністае дзела | 45 | 9 | 30 | 240 | 20 |

Таблица 2

**Тэхнічныя характарыстыкі гармат 17 ст. ў ВКЛ** (паводле Т.Новака)

| Тып і від гарматы | Ствол | | | Ядро | | Колькасць стрэлаў за дзень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вага, ц | Даўжыня, калібраў | Даўжыня, см | Вага, фунтаў | Калібр, мм | |
| Картаўна цэлая | 64 | 18 | 328 | 48 | 182 | 60 |
| Паўкартаўна | 37 | 20 | 290 | 24 | 145 | 80 |
| Чвэрцькартаўн | 25 | 24 | 276 | 12 | 115 | 80 |
| Актава | 19 | 28 | 255 | 6 | 91 | |
| Дзела 6-фунтовае палкавое | 6,5 | 15 | 137 | 6 | 91 | |
| Дзела 3-фунтовае палкавое | 5 | 15 | 108 | 3 | 72 | |

*Пушкароў* спачатку запрашалі ў ВКЛ з-за мяжы, найперш з Германіі, Чэхіі, Галандыі. Пад 1394 згадваецца пушкар Вітаўта Конрад, а пад 1428 — немец Мікола (Мікула). З сярэдзіны 16 ст. сустракаюцца і мясц. майстры. Апроч стральбы, пушкары маглі выконваць і інш. абавязкі — рамонт, а часам і выраб гармат і ручной зброі, догляд за ёй, выраб пораху і г.д. Захаваліся імёны некат. ліцейшчыкаў-людвісараў: немец Іаган Бротэльт у Вільні; немец Герман Мольтцфельд, мясц. майстры Сцяпан і Пятро ў Нясвіжы (канец 16—пач. 17 ст.); К.Ганусаў у Быхаве (2-я пал. 16 ст.); быхаўскія майстры Юрка і Мікалай, якія рабілі разавыя адліўкі ў Магілёве (сярэдзіна 17 ст.). Гал. метадамі вучобы пушкароў былі практыка, удзел у ваенных падзеях, рэгулярныя праверачныя стрэльбы пад кантролем гар. магістрата.

У 1-й пал. 17 ст. з'явіліся падручнікі па артылерыйскай справе, выдадзеныя на польскай і лац. мовах: італьянца Дыега Уфана, ураджэнца ВКЛ К.*Семяновіча*. У 18 ст. гарматы выраблялі ў Слуцку, Быхаве, Нясвіжы, Гародні, Жлобіне, Вішневе.

*Літ.*: Górski K. Historija artylerii polskiej. Warszawa, 1902; Вилинбахов В.Б., Мурьянов М.Ф. Новый факт знакомства Руси с огнестрельным оружием // Вопросы истории. 1960. № 8; Полное собрание русских летописей. Т. 11, 12. М., 1965; Nowak T. Z dziejów techniki wojennej w dawnej Polsce. Warszawa, 1965; Ɓâі ć. Polska technika wojenna XVI—XVIII w. Warszawa, 1970; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002; Rackevičius G. Arbaletas ir lankas Lietuvoje XIII—XVI a. Vilnius, 2002.

***Юрась Бохан, Міхась Ткачоў.***

**Артэлій** (Ortelius, Oertel) Абрахам (4.4.1527, г. Антверпен—28.6.1598), фламандскі картограф і выдавец, адзін з заснавальнікаў картаграфічнай навукі. Каля 1547 заснаваў уласную фірму. Падарожнічаў па Еўропе, сабраў багатую калекцыю антыкаў і карт. Выдаў зб. «Агляд шара зямнога» («Theatrum orbis terrarum», Антверпен, 1570), які фактычна стаў першым геагр. атласам, змяшчаў 53 карты асобных краін з дэталёвымі апісаннямі (у т.л. бел. зямель), бібліяграфічныя даведкі на 87 картографаў. У 1579 уключыў у яго 3 гіст. карты са спісам геагр. аб'ектаў, пазначаных у працах К.Пталамея. Пазней гэты дадатак («Parergon») выдаваўся асобна, што дало пачатак стварэнню першых гіст. атласаў. У 1578 выдаў сумесна з А.Мыліусам індэкс стараж. геагр. назваў. У 1592 адкрыў у сваім антверпенскім доме музей, да канца жыцця займаўся гісторыка-геагр. даследаваннямі. «Агляд...» неаднаразова дапаўняўся і перавыдаваўся ў 17—пач. 18 ст.

*Літ.*: Салищев К.А. Картоведение. 2 изд. М., 1982; Джеймс П., Мартин Дж. Все возможные миры: История геогр. идей: Пер. с англ. М., 1988; Kublin L., Majewska B., Tomaszewska M. Mapy ziem polskich kartografów niderlandzkich XVI i XVII w. Warszawa, 1987; Sirko M. Zarys historii kartografii. Lublin, 1999.

***Леў Казлоў.***

**«Археаграфічны зборнік дакументаў»** («Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа»), серыйнае выданне дакументаў па гісторыі Беларусі і Літвы 15—19 ст. Выйшла 14 т. (1867—1904). Распачата па ініцыятыве папячыцеля Віленскай навуч. акругі І.П.Карнілава. Значную ролю ў падрыхтоўцы выдання адыгралі П.А.Гільтэбрант, выкладчык Віленскай гімназіі А.Л.Міратворцаў і педагогі Літоўскай правасл. семінарыі ў Вільні. Апошнія тамы падрыхтаваны Віленскай археаграфічнай камісіяй і Камісіяй па арганізацыі Віленскай публічнай б-кі. Непасрэднымі выканаўцамі работы былі гал.ч. настаўнікі сярэдніх навуч. устаноў, што абумовіла невысокі археагр. ўзровень выдання (часам не пазначана, па якіх крыніцах друкаваліся дакументы, бел. тэксты звычайна перадаваліся паводле правіл рус. граматыкі, не ўсе матэрыялы з лацінскай і польскай моў перакладзены). Як вынікае з прадмоў і археаграфічных легенд, большасць матэрыялаў выяўлена ў архівах, бібліятэках, манастырскіх і прыватных кнігасховішчах і зборах, у т.л. Нясвіжскім і Кейданскім архівах Радзівілаў, Жыровіцкім і Супрасльскім манастырах, Віленскай публічнай б-цы, Літоўскай духоўнай семінарыі, Віцебскім цэнтр. архіве. Некаторыя дакументы тычацца гісторыі Украіны. Тэматыка зборніка неаднародная. Асн. групы складаюць юрыд. і эканам. дакументы (інвентары, люстрацыі, розных тыпаў прывілеі, фундушы, цэхавыя статуты, суд. справы і інш.), матэрыялы, у якіх асвятляюцца паліт. і культ. адносіны, войны (дыпламат. перапіска, пасольскія дыярыушы). Найб. значнае месца адведзена гісторыі правасл. царквы, царкоўнай уніі, брацтвам, манастырам. Царкоўна-рэлігійныя традыцыі бел., укр. і часткова літоўскага народаў, пашырэнне сярод іх праваслаўя лічылася неабвержным доказам прыналежнасці гэтых народаў да «рускіх» — адзінай велікарускай народнасці. Матэрыялы па гісторыі Беларусі змешчаны ў асноўным у т. 2 («Запіскі ігумена Арэста»), 6, 7 (з Нясвіжскага архіва), 9 (гісторыка-дакументальныя «хронікі» па гісторыі Супрасльскага манастыра, дакументы пра Каложскі манастыр), 11 (Берасцейскі Сімяонаўскі манастыр), 12—13 (матэрыялы базыльянскай кангрэгацыі, рэвізіі уніяцкіх цэркваў), 5, 14 (дакументы па ўсх. Беларусі). У працэсе пошукаў матэрыялаў для зборнікаў былі знойдзены унікальныя помнікі старажытнай бел. і слав. л-ры і пісьменства, у т. л. Тураўскае Евангелле, Супрасльскі рукапіс.

*Літ.*: Спрогис И.Я. Подробный алфавитный указатель к 1—13 томам Археографического сборника, издаваемого при Виленском учебном округе. Вильна, 1905; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 147—170.

***Георгій Галенчанка.***

**архівы.** У ВКЛ вядомы з 15 ст., аднак можна лічыць, што яны існавалі і раней. З аднаго боку, А. працягвалі захоўваць дакументы, якія раней знаходзіліся ў архівах полацкіх, віцебскіх, менскіх, тураўпінскіх князёў; з другога — папаўняліся актамі, што ствараліся ў працэсе дзейнасці цэнтр. і мясц. органаў улады і кіравання ВКЛ. На іх дзейнасці адбіліся прыёмы і метады, тыповыя для зах.-еўрап. архіваў. З 15 ст. распаўсюджваецца практыка вядзення *актавых кніг*, якая да сярэдзіны 16 ст. становіцца паўсюднай і замацоўваецца Статутамі ВКЛ.

Цэнтр. дзярж. А. была *Метрыка Вялікага княства Літоўскага*. Яна ўяўляла сабой А. канцылярыі вял. князя і паноў-рады пры ім. Гісторыя Метрыкі пачынаецца з сярэдзіны 15 ст., калі дзякі пры вял. князю Казіміру Жыгімонтавічу пачалі весці запісы княжацкіх данін і іншых яго грамат. У гэты час Метрыка была ў пачатковай стадыі. Ад старых часоў тут захоўвалася мала актаў. Спачатку Метрыка сумесна са скарбам ВКЛ захоўвалася ў Троках пад наглядам падскарбія земскага, а ў 1511 перавезена ў Вільню, дзе знаходзілася да 2-й пал. 18 ст. Яна падзялялася на Вял. Метрыку, якая знаходзілася пад наглядам канцлера, і Малую Метрыку, якой загадваў падканцлер. Гэтыя асобы прызначалі залежных ад сябе загадчыкаў Метрык — метрыкантаў. Першымі метрыкантамі ў Вільні былі дзякі Міцька і Сапотка. У 1594 паводле загаду канцлера ВКЛ Л.Сапегі пачалася перапіска кніг Метрыкі, якія ад частага ўжывання пачалі псавацца. Перапіска працягвалася да 1607, яе рабілі дзякі Вышчынскі, Гескоўскі, Каралеўскі, Мархач, Пашкевіч, Радзецкі, Розен, Яцыніч і інш. У 1765 Метрыка перавезена ў Варшаву. У 1768 пад кіраўніцтвам гісторыка А.Т.С.*Нарушэвіча* кнігі пераплецены, да кожнай складзены рэестр на польск. мове. Паводле ўказа рас. імператрыцы Кацярыны II ад 2.12.1794, дадзенага А.В.Сувораву, Метрыка перавезена ў Пецярбург, а ў 1889 — у Маскву; цяпер захоўваецца ў Рас. дзярж. архіве стараж. актаў.



Вял. колькасць цэнтр. і мясц. А. ВКЛ складалі судовыя А. Сярод іх А. *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага* (створаны ў 1581, у 1830-я г. на яго базе пачаў фарміравацца Віленскі цэнтр. архіў стараж. актавых кніг), а таксама А. гал. катэгорый мясц. судоў — гродскіх, земскіх, падкаморскіх. У гарадах збіраліся *архівы гарадскія*, а ў гарадах, якія карысталіся магдэбургскім правам, вяліся т.зв. магдэбургіі — кнігі актаў і судовых рашэнняў, якія прымаліся мясц. магістратамі (войтамі, бурмістрамі, лаўнікамі і інш.). У царк. і манастырскіх А. захоўвалі рашэнні духоўных судоў, граматы на права валодання зямлёй і інш. маёмасцю, метрычныя кнігі, кліравыя ведамасці, дакументы па гісторыі духоўных устаноў. Аналагічная дакументацыя захоўвалася і ў А. мітрапалітаў, архіепіскапаў, епіскапаў, кансісторый, дэканатаў, капітул і інш. адм. устаноў хрысціянскіх канфесій. А. часта цярпелі ад пажараў. Напр., у ноч на 7.6.1762 у Менску згарэла 358 кніг менскай кадэнцыі Трыбунала ВКЛ за 1641—1759, ацалела толькі каля 40 дэкрэтавых кніг і некалькі пратаколаў і рэестраў, якія зберагаліся ў кляштары бенедыкцінак. Тады ж згарэлі кнігі менскага земскага суда за 1641—1710. У пажары загінулі і кнігі Навагародскай кадэнцыі Трыбунала ВКЛ і навагародскага земскага суда да 1764.

Фамільныя архіўныя зборы прадстаўлены магнацкімі і шляхецкімі А. Найважнейшыя з іх — *архівы Радзівілаў*, *архівы Сапегаў*, *архівы Тышкевічаў*, *архівы Хадкевічаў*, Слушкаў, Глябовічаў і інш. Гэтыя А., асабліва магнацкія, нярэдка выконвалі функцыі дзярж. сховішчаў. Дзякуючы ім зберагло́ся шмат каштоўных дакументаў агульнадзярж. характару, у іх таксама захоўваліся калекцыі стараж. помнікаў пісьменнасці, рукапісы літ., навук., музычных твораў і інш. Аднак у асноўным магнацкія і шляхецкія А. захоўвалі дакументы, якія пацвярджалі права валодання пэўнай маёмасцю.

*Літ.*: Маяковский И.Л. Очерки по истории архивного дела в СССР: (Опыт систематического руководства). Ч. 1. История архивного дела в СССР до Октябрьской социалистической революции. М., 1941. С. 136—150; Бережков Н.Г. Литовская Метрика как исторический источник. Ч. 1. О первоначальном составе книг Литовской Метрики по 1522 год. М.; Л., 1946; Исследования по истории Литовской метрики: Сб. научных трудов. Ч. 1—2. М., 1989; Жумарь С.В., Карев Д.В., Шумейко М.Ф. Очерки истории архивного дела в Беларуси (XV в.—1991 г.). Мн., 1999. С. 26—54; Спиридонов М.Ф. Архивы шляхты Беларуси в XVI веке// Архівы і справаводства. 2000. № 4; Нариси історії архівної справи в Україні. Київ, 2002. С. 51—58.

***Міхась Шумейка.***

**архівы гарадскія**, установы, якія збіралі, захоўвалі і выкарыстоўвалі дакументы, што ўтвараліся ў выніку функцыянавання гар. судоў: бурмістраўска-радзецкага, войтаўска-лаўніцкага і войтаўска-дамавога, а таксама адм.-гасп. і фін. дзейнасці магістрата. Традыцыйна дакументы захоўваліся пры тых установах, дзе яны ствараліся: войтаўска-дамавога суда — у доме войта, бурмістраўска-радзецкага, войтаўска-лаўніцкага судоў і магістрацкія — у ратушы. У асобных выпадках скрыні з дакументамі і актавымі кнігамі захоўваліся ў скляпеннях храмаў. У вял. гарадах архівы да 18 ст. знаходзіліся ў асобных будынках. Акрамя дакументаў тут часта захоўваўся гар. скарб. Для лепшага зберажэння дакументаў яны звязваліся ў плікі (звязкі), апячатваліся, складваліся ў спец. скрыні. Рахунковыя кнігі сведчаць аб рэгулярных аплатах за пераплёт кніг інтралігатарам, а таксама лаўнікам і рэгентам. Структура А.г. выкрышталізоўвалася паступова. Спачатку яны былі, відаць, невял. прыдаткамі пры ўстановах і канцылярыях. Традыцыйна імі загадваў пісар, якому дапамагалі падпіскі і адзін радца ці лаўнік. З павелічэннем аб'ёму справаводства і дакументацыі з'явілася неабходнасць ускладнення структуры і павелічэння штатаў. «Пункты да ардынацыі» Магілёву, выдадзеныя дэкрэтам задворнага асэсарскага суда ВКЛ у 1633, сведчаць, што ў дапамогу пісару, які за гэту працу атрымліваў 4 тынфы на тыдзень, і архіўнаму радцы даваўся прысяжны архівіст, які атрымліваў 3 тынфы (у Магілёве ён называўся радца, які загадвае кнігамі). У 2-й пал. 17 ст., відаць, гэтыя функцыі выконвалі рэгенты і віцэрэгенты. Можна меркаваць, што архівіст у магістраце працаваў сам, часам ён атрымліваў грошы за канкрэтную працу. У Магілёве вельмі часта пасады пісара і рэгента сумяшчаліся ці замяшчаліся. Пісар, які загадваў канцылярыяй, звычайна накіроўваў у архіў разам з чарнавікамі і незапатрабаванымі дакументамі перапісаныя начыста актавыя кнігі, пратаколы, тастаменты і інш., якія часам захоўваліся асобна, часам разам ці перапляталіся ў адну кнігу. Акрамя гэтага, у архіў здаваліся перапісаныя начыста падатковыя дакументы падымнага, папрутчыны, рахунковыя дакументы, якія вялі скарбовыя радцы, у рэдкіх выпадках бурмістры. Да гэтых дакументаў павінны былі складацца рэестры, інвентары, як асобныя, так і агульныя. Гэта не заўсёды выконвалася з-за адсутнасці здольных работнікаў, аб чым сведчаць як пастановы сесій магістратаў, так і тыя архівы і асобныя крыніцы, што захаваліся. Для лепшага карыстання А.г. ствараўся даведачны апарат. Да ўсіх дакументаў і кніг павінны былі складацца рэестры, якія часам перапляталіся разам з кнігамі, часам захоўваліся асобна. Акрамя таго, складаліся агульныя інвентары архіва. Звычайна пошукам дакументаў займаліся падпіскі-канцылярысты, рэгенты і архіўныя радцы. У асобных выпадках яны атрымлівалі дадатковую плату за пошукі дакументаў.

***Зміцер Яцкевіч.***

**архівы Радзівілаў**. З канца 15 ст. *Радзівілы* адыгрывалі першарадную ролю ў паліт., сац.-еканам. і культурным жыцці Беларусі, Літвы, Украіны, былі пароднены з арыстакратычнымі родамі ВКЛ, Польшчы, ням. княстваў. Ва ўсіх уладаннях Радзівілаў існавалі канцыляры, складвалася і мяняла свае формы справаводства, арганізоўваліся і апрацоўваліся архівы. Звычайна асн. архівы захоўваліся ў адм. цэнтрах латыфундый. У 16 ст. архівы былі ў прадстаўнікоў усіх трох ліній Радзівілаў: ганёндзска-медзельскай (згасла ў сярэдзіне 16 ст.), біржанска-дубінкаўскай (згасла ў 2-й пал. 17 ст.) і нясвіжска-алыцкай. У канцы 17 ст. большая частка архіўных дакументаў ганёндзскіх і біржанскіх Радзівілаў была сканцэнтравана ў Нясвіжскім архіве. Паводле ацэнкі нясвіжскага архіварыуса 1880-х г. Б.Завадскага, сістэма архіўнага справаводства ў радзівілаўскіх уладаннях 16—17 ст. была амаль дасканалай. У яе аснову быў пакладзены прынцып сістэматызацыі архіўных матэрыялаў па галоўных разнавіднасцях дакументацыі (часам з вылучэннем найб. стараж. і каштоўных актаў): пергаментныя прывілеі, прыватная карэспандэнцыя, улікова-расходныя кнігі, публічныя справы і інш. У масавых групах гасп.-адм. дакументацыі практыкаваўся адбор і захоўванне матэрыялаў па асобных уладаннях і латыфундыях. У

падрабязных сумарыушах, складзеных у 1635, 1650—52, 1695, рэгістраваліся ўсе катэгорыі дакументаў. Архіўны сумарыуш 1635 матэрыялаў біржанска-дубінкаўскага архіўнага збору дазваляе рэканструяваць асн. рысы стараж. А.Р. Матэрыялы Біржанскага архіва захоўваліся ў 33 скрынях. Пераважную большасць дакументаў складалі гаспадарскія прывілеі, пацвярджальныя граматы, судовыя дэкрэты, камісарскія лісты пра падзел маёнткаў, розныя позвы, пратэстацыі, «зезнанні», «пераносы права». У асобную групу ўваходзілі інвентары і вопісы ўладанняў. Комплексы дакументаў («фасцыкулы» або «штукі») аб'ядноўвалі матэрыялы, што тычыліся пэўных маёнткаў і залежных ад іх фальваркаў. У 14-й скрыні, напр., захоўвалася 13 фасцыкулаў, у якіх налічвалася 150 спраў маёнтка Любча (пачынаючы з пергаментнага прывілея вял. князя ВКЛ Аляксандра пісару Федзьку, 1499). Важную групу дакументальных і наратыўных крыніц складалі т.зв. «публічныя справы», што тычыліся ўнутранай і знешняй палітыкі ВКЛ, Польшчы, Рэчы Паспалітай, дзейнасці соймаў, пасольстваў і інш. У Біржанскім архіве захоўваліся «публічныя справы» 2-й пал. 16—сярэдзіны 17 ст. Сярод іх 64 фасцыкулы з соймавымі і соймікавымі справамі, рэляцыямі, інструкцыямі, прамовамі, матэрыяламі з'ездаў шляхты ВКЛ, Польшчы, канфедэрацый; 17 фасцыкулаў спраў пра выбары каралёў, вял. князёў літоўскіх, паліт. барацьбу ў перыяд міжкаралеўя; 6 фасцыкулаў са справамі пра рокаш Зэбжыдоўскага пач. 17 ст.; 58 фасцыкулаў са справамі пра інш. дзяржавы; 32 фасцыкулы з карэспандэнцыяй (лісты польскіх каралёў, вял. князёў літоўскіх, арыстакратаў Еўропы); 2 фасцыкулы са справамі пра паўстанне С.Налівайкі і Р.Лабады (Нац. гіст. архіў Беларусі, ф. 694, воп. 4, спр. 5704). У вопісах Нясвіжскага архіва 18—19 ст. улічаны царкоўна-рэлігійныя справы, акты феадалаў ВКЛ пра прызнанне вярхоўнай улады польскіх каралёў і вял. князёў літоўскіх — Ягайлы, Вітаўта, Свідрыгайлы і інш.; справаздачы Віленскага манетнага двара 16—17 ст.; акты Люблінскай уніі 1569; «Сумарыуш метрык літоўскіх, кніг 9» і арыгінальная кніга Метрыкі за 1511—18, калі канцлерам быў М.Радзівіл Стары; фінансавыя дакументы, у т.л. рахунак, складзены падскарбіем земскім Г.Р.Валовічам у 1615 (344 арк.); матэрыялы пра стварэнне Нясвіжскай ардынацыі; арэндныя дагаворы, судовыя пратаколы, фундушы каталіцкім калегіумам, попісы (інвентары) замкаў, палацаў, старастваў, гарадоў, мястэчкаў, маёнткаў; рэестры бібліятэк, рукапісаў, калекцый партрэтаў, зброі, генеалагічныя і картаграфічныя матэрыялы. Зберагаліся дакументы пра гуты і люстраныя мануфактуры, прадпрыемствы па вырабе дываноў, габеленаў, паясоў, карэт, мэблі; матэрыялы пра дзейнасць пісьменнікаў, мастакоў, кваліфікаваных рамеснікаў, дакументы пра навуч. ўстановы, нясвіжскі тэатр Радзівілаў, літаратурныя і мемуарныя творы Радзівілаў, матэрыялы дзярж. камісій, што займаліся справамі радзівілаўскіх маёнткаў.

У 2-й пал. 19 ст. нясвіжскі архіварыус Сімановіч з дапамогай М.Богуша-Шышкі надаў архіўным фондам новую структуру — па тэматыцы (справы гаспадарскія, вайсковыя, фінансавыя і інш.) і па фармальных прыкметах (напр., карэспандэнцыя Радзівілаў), склаў алфавітны і храналагічны паказальнікі. У 1920-я г. архіварыусы А.Іваноўскі і Б.Таўрагінскі падзялілі матэрыялы Нясвіжскага архіва на 34 аддзелы, склалі 6 інвентароў (архіўных каталогаў). У 1929 «гістарычныя» матэрыялы былі перавезены ў Варшаву, а «эканамічныя» засталіся на месцы і склалі аснову фонду Радзівілаў у Нац. гіст. архіве Беларусі (ф. 694, 25 540 адзінак захоўвання, 16 ст. — 1937). Паводле апісанняў польскіх даследчыкаў, «эканамічныя» матэрыялы ўваходзілі ў наступныя аддзелы Нясвіжскага архіва: IX. Акты, што тычацца сялян; XXII. Акты «афіцыялістаў і грацыялістаў»; XXVIII. Адміністрацыйныя акты 19 ст.; XXX. Лясныя акты 19 ст.; XXXI. Прававыя дакументы; XXXII. Касавыя дакументы. Часткова захаваліся таксама матэрыялы аддзелаў: XVI. Акты ардынацыі клецкай і давыд-гарадоцкай; XXVII. Архіўныя сумарыушы. XXIX. Эканамічныя акты 16—19 ст.; XXXIII. Рознае. Архіўныя матэрыялы Радзівілаў захоўваюцца і ў Дзярж. гіст. архіве Літвы ў Вільнюсе (ф. 1280, 2509 адзінак захоўвання, 1411—1939).

У Польшчы ў дзярж. архіўным фондзе захоўваецца 5 асобных А.Р. Найбольшы належыць Гал. архіву стараж. актаў (ГАСА, Варшава, больш за 35 тыс. адзінак захоўвання). Аддзелы: II. Гістарычныя дакументы, 3275 спраў, 1379—1837; III.


23. ZABŁUDOW
Abo
SPRAWY IMIENIA ZABLUDOWIA Y FOLWARKOW DO NIEGO NALEZACYCH.


20. BIELICA.
To iest
SPRAWY IMIENIA BIELICE, ZBLAN, Y FOLWARKOW DO NIEGO SŁUZACYCH.


17. WSIELUB.
To iest
SPRAWY IMIENIA WSIELUBSKIEGO, Y FOLWARKOW DO NIEGO NALEZACYCH

Да арт. **Архівы Радзівілаў**. Інвентары маёнткаў Заблудаў, Беліца і Уселюб. Нац. гіст. архіў Беларусі ў Мінску.

Лісты манархаў і іх родзічаў, 993 справы, 1530—1884; V. Лісты іншых арыстакратычных родаў, 19 004 справы, 16—19 ст.; VI. Дыярыушы, 1613—1764; VII. Вайсковыя акты, 761 справа, 1587—1821; VIII. Акты пра духоўных асоб, 734 справы, 1514—1891, у т.л. інвентар Нясвіжскага кляштара бенедыкцінак, матэрыялы езуіцкіх калегіумаў у Пінску і Слуцку, акты падатковых выплат слуцкім духавенствам у 17—18 ст., пратэсты евангелічнага духавенства супраць католікаў, папскія булы; XV. Матэрыялы Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, 20 «партфеляў», 1448—1839; XVII. Акты старостваў і эканомій, 161 справа, 1536—1827; XVIII. Акты пра сельскія ўладанні Радзівілаў, 451 справа, 1520—1876; XIX. Матэрыялы пра фабрыкі і мануфактуры, 575 спраў, 1632—1889, у т.л. дакументы пра гуту ў Налібаках, мануфактуру па вырабе паясоў у Слуцку, цукровыя заводы ў Карэлічах і Івані, бровары ў Налібаках і Беразовіцах, паташныя буды; XXIII. Матэрыялы пра розныя ўладанні Радзівілаў, пераважна на тэр. Беларусі, 162 «партфелі», 17—19 ст.; XXV. Інвентары маёнткаў, 5408 спраў, 16—19 ст.; рукапісы з бібліятэк Радзівілаў, 41 справа, 17—18 ст. У ГАСА захоўваецца таксама Небароўскі архіў Радзівілаў (матэрыялы ад 15 ст. да 1944, пераважна акты ўладальнікаў маёнтка) і архіў Радзівілаў з Паланэчкі (былы Прыгодзіцкі архіў, 15—19 ст.). Частка Прыгодзіцкага архіва Радзівілаў за 1792—1938 захоўваецца ў Дзярж. архіве ў Познані. Матэрыялы А.Р. з Нагловіц (дакументы за 1788—1941) захоўваюцца ў Дзярж. архіве ў Кельцах.

Акрамя архіўных збораў, існуюць асобныя дакументы і матэрыялы, што некалі належалі Радзівілам, т.зв. «архівалія». Матэрыялы Радзівілаў захоўваліся ў Дзярж. гіст. архіве Латвіі (карэспандэнцыя Радзівілаў за 1577—1621, захоўвалася ў былым Рыжскім дзярж. гарадскім архіве), у рукапісным аддзеле б-кі Вільнюскага ун-та, у Рас. Нац. б-цы ў С.-Пецярбургу (пераважна ў зборах Дуброўскага), б-цы АН Украіны ў Львове (трактаты, паліт. рэляцыі, публічныя справы, прамовы), у Цэнтр. дзярж. гіст. архіве Украіны і б-цы Нац. АН Украіны ў Кіеве і інш. У Польшчы — у вроцлаўскім Асалінэуме, Нац. б-цы ў Варшаве (у т.л. т.зв. «literaria» — наратыўныя і белетрыстычныя крыніцы 17—18 ст., што захоўваліся ў варшаўскім архіве Нясвіжскай ардынацыі), у Плоцкай б-цы імя Зялінскіх, б-цы імя Э.Рачынскага ў Познані (зборы Нямцэвіча), Курніцкай б-цы (арыгінальныя дакументы за 1530—47, рукапісы з Нясвіжскага архіва, забраныя ў пач. 19 ст. бібліятэкарам Квяткоўскім і пазней купленыя Т.Дзялыньскім), б-цы Ягелонскага ун-та ў Кракаве, б-цы Польскай АН (лісты, універсалы 1518—1671, аперэта «Агатка», муз. Я.Д.Голанда, лібрэта М.Радзівіла, 1784), музеі Чартарыйскіх у Кракаве (у т.л. рукапіс з А.Р. з паказаннямі палонных бел. і ўкр. мяшчан, сялян і казакоў сярэдзіны 17 ст.).

*Публ.*: Lachowicz S.A. Listy oryginalne Zygmunta Augusta do Mikołaja Radziwiłła Czarnego... Wilno, 1842; Księcia Krzysztofa Radziwiłła, hetmana polnego Wielkiego Księstwa Litewskiego, sprawy wojenne i polityczne, 1621—1632. Paryż, 1859; Pamiętnik o księciu Karolu Radziwille podług archiwum nieświezkiego. Lwów, 1864; Listy Władysława IV do Krzystofa Radziwiłła hetmana polnego W.X. Litewskiego pisane 1612—1632 roku. Kraków, 1867; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Т. 7. Собранный в Несвиже и изданный П.Гильтебрандтом. Вильна, 1870; Archiwum domu Radziwiłłów. Kraków, 1885; Z dokumentów Xięcia Mikołaja Krzysztofa Radziwiłła zwanego Sierotką. Warszawa, 1905; Radziwiłł A.S. Memoriale rerum gestarum in Polonia, 1632—1656. T. 1—5. Wrocław etc., 1968—75; Biržų dvaro teismo knygos 1620—1745. Vilnius, 1982.

*Літ.*: Леонтьева Т.Е. Документальные материалы фонда князей Радзивиллов как исторический источник // Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР. Мн., 1971; Barwiński E. Archiwum ks. Radziwiłłów w Nieświeżu: Rys jego historii i sprawozdanie z poszukiwań // Archiwum Komisji Historycznej PAU. 1909. T. 11; Bańkowski P. Polskie archiwa magnackie w Centralnym Państwowym Archiwum Historycznym w Kijowie // Archeion. 1964. T. 40; Smoleńska B., Zielińska T. Archiwa prywatne w Archiwum Głównym w Warszawie: (Archiwa magnackie) // Там жа. 1962. T. 38; Центральный государственный исторический архив БССР в Минске: Путеводитель. Мн., 1974; Копысский З.Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978; Zielińska T. Archiwa Radziwillów i ich twórcy// Archeion. 1978. T. 66; Bść. Archiwa różnych linii rodu Radziwillów w polskich zbiorach publicznych // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa, 1997. T. 7; Паўловіч С. Прывілей Мікалая Радзівіла // Беларуская мінуўшчына. 1995. № 5; Bagińska E. Źródła do dziejów Radziwiłłów w archiwach i bibliotekach wileńskich // Białostocczyzna. 1997. Z. 4; Ульяновський В.І. «Русское дело в Северо-Западном крае» через призму історії магнатських архівів Сапєг та Радзивіллів. Київ, 1998; Карліна О. Документи «Архіву Радзивілів» як джерела з історії Волині XVIII—XIX ст. // Осягнення історії. Острог; Нью-Йорк, 1999; Брэгер Г.М., Лінская Л.А. Невядомы фрагмент Нясвіжскага архіва Радзівілаў у фондах НМГІКБ // Беларускі археаграфічны штогоднік. Мн., 2003. Вып. 4.

***Георгій Галенчанка.***

**архівы Сапегаў.** *Сапегі* з 16 ст. належалі да самых значных магнацкіх родаў. Іх маёнткі размяшчаліся на тэр. Беларусі, Літвы і Украіны. Ва ўсіх латыфундыях Сапегаў існавалі дваровыя канцылярыі, збіраліся і захоўваліся дакументы. Актыўная адміністрацыйная, паліт., дыпламат. і прыдворная дзейнасць Сапегаў (многія з іх займалі пасады гаспадарскіх пісараў, канцлераў, ваявод, гетманаў) дазволіла ім добра азнаёміцца з дзярж. справаводствам, забяспечыць высокі ўзровень архіўнай справы ва ўласных уладаннях. Гал. родавыя А.С. належалі 2 лініям: ружанскай (у т.л. чарэйскай) і коданскай. Ружанскі архіў захоўваўся ў Ружанскім палацы (гл. *Ружанскі палацавы комплекс*), у 1786 пераведзены ў Дзярэчын (Слонімскі пав.). Большая частка ружанска-дзярэчынскіх архіўных збораў у 19 ст. стала ўласнасцю графа В.Пуслоўскага і разышлася па розных сховішчах: 32 фаліянты падараваны Акадэміі навук у Кракаве, 3 — б-цы ардынацыі Замойскіх у Варшаве, 9 — імператарскай Публічнай б-цы ў Пецярбургу. Значны збор матэрыялаў (паводле падлікаў Э.Хвалевіка, каля 7 тыс. рукапісаў) пасля 1-й сусв. вайны паступіў у Публічную б-ку ў Вільні. Карэспандэнцыя чарэйскіх Сапегаў, пераважна 18 ст., захоўвалася ў зборы графа С.Браніцкага ў Росі (Ваўкавыскі пав.), у б-цы Красінскіх у Варшаве, зборах Э.Чапскага ў Станькаве (Мінскі пав.) і Бібліятэцы Брытанскага музея.

Асн. частка Дзярэчынскага архіва зберагаецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтр. б-кі АН Літвы (ф. 139, 5589 адзінак захоўвання). Гэта прыватная карэспандэнцыя Сапегаў, матэрыялы пра сац.-эканам. становішча і дзярж.-паліт. дзейнасць прадстаўнікоў роду Сапегаў. Як і архівы інш. бел. феадалаў, А.С. захоўвалі архівы былых уладальнікаў

маёнткаў (Капацэвічаў, Палубінскіх, Войнаў). Складзеныя ў 18—19 ст. рэестры (ф. 18, № 119—120, 130—132, 134, 139, 142 і інш.) даюць магчымасць рэканструяваць склад А.С. Дакументы класіфікаваліся паводле зместу, размяшчаліся ў хран360алагічным парадку і захоўваліся ў асобных папках у шафах. Асаблівая ўвага звярталася на дакументы, што пацвярджалі маёмасныя правы Сапегаў. У рэестры 1742 («Rejestr archiwów... Panów Michała, Jozefa wdy Podlaskiego i Kazimierza Leona Generala Artyleryi WKL Hrabiow Sapiehów należących») зафіксаваны дакументы на чарэйскую спадчыну Сапегаў: гаспадарскія (каралеўскія і велікакняжацкія) прывілеі феадалам і службовым асобам на права ўладання — 10 дакументаў за 1519—96; камісарскія акты, лісты аб падзеле маёнткаў — 11 дакументаў за 1485—1589; «права прадажнае вечнае» і «ўстаўнае» — 13 дакументаў за 1545—96; інш. лісты, што замацоўвалі правы феадалаў (даравальныя, дагаворныя і інш. акты) — 9 дакументаў за 1489—1600; позвы ў суд, дэкрэты, «пратэстацыі» — 7 дакументаў за 1521—80; выпіскі з актавых кніг, «інтрамісіі», «экстракты», квітанцыі, «пераносы правоў», «зезнанні права» — 27 дакументаў за 1546—1600; інвентары ўладанняў — 2 дакументы за 1596—97. Руплівa збіраліся гаспадарскія прывілеі на высокія службовыя пасады. Рэестр «прывілеяў на дыгнітарства» за 1580—1754 складае 648 старонак (ф. 18, № 132). З дзярж.-публічных дакументаў асн. ўвагу Сапегаў прыцягвалі соймавыя, соймікавыя, дыпламатычныя, пасольскія, дынастычныя справы. Але іх захавалася значна менш, чым сац.-эканам. актаў. Перапіска Сапегаў ахоплівае ўсе пласты свецкай і царкоўнай знаці, розных каранаваных асоб, у т.л. замежных, паліт. і культурных дзеячаў, кнігавыдаўцоў, пісьменнікаў, мастакоў. Зберагліся рэвізія Кобрынскай эканоміі 2-й пал. 16 ст. (ф. 17, № 212), гаспадарча-расходная кніга Л.Сапегі 1592—93 (№ 106), чалабітныя сялян Сапегам за 1619—65 (№ 104), дыярыуш пасольства К.Л.Сапегі ў Маскву 1635 (№ 179), арыгіналы пасланняў кардыналаў і папскіх нунцыяў да духоўных асоб Беларусі, Літвы і Украіны на лац. і італьянскай мовах 1624—73, слонімскі інвентар 1746 (№ 34), копіі перапіскі Сапегаў 1588—1633 (ф. ВГ, № 431, 432). Некаторыя матэрыялы ружанска-дзярэчынскіх збораў захоўваюцца ў Цэнтр. дзярж. гіст. архіве Украіны ў Кіеве: дзярэчынскія прывілеі 1402, 1577, карэспандэнцыя Л.Сапегі, праект паліт. дагавора Рэчы Паспалітай з Готардам Кетлерам — курляндскім правіцелем 16 ст. і інш.

Другі буйны архіўны комплекс (коданскія і больш познія тэафілпольскія матэрыялы) быў перавезены А.Сапегам (1828—1903) у маёнтак Красічына (каля Перамышля). У пач. 20 ст. ў архіве было амаль 50 тыс. рукапісных адзінак. У 1908—10 У.Сапега падараваў большую частку збораў львоўскаму Асалінэуму для


POPIS
PIERWSZEY DYWIZYI
INWENTOWANYCH DOKUMENTOW,
SPRAW, PRAWNYCH PROCEDEROW
NA OBRONE
DOBR, FORTUN, SUBSTANCYI, Y
NA UTRZYMANIE INTERESSOW
STAROZYTNEO DOMU
JAS. WIELL. HRABIOW SAPIEHOW
NA MIETF. PRZEZ HERBOWĄ STRZALE
NAZNACZONA ZEBRANYCH.
W DZIEN PATRONA MICHALA S:
HETMANA MILICYI NIEBIESKIEY
CZYNIONY
DO WIECZNYSTEY KOMMENDY
J.W. JMSCI PANU MIC AN. HRABI
SAPIEZIE POKINC. W.X.L. &c
ODDANYCH
1753 R.

Да арт. **Архівы Сапегаў**. Попіс дакументаў. 18 ст. Цэнтр. б-ка АН Літвы.

«публічнага карыстання». У 1946 паводле дагавора з СССР 2/3 б-кі Асалінэума, у т.л. многія матэрыялы Красічынскага архіва Сапегаў, перададзена вроцлаўскай б-цы Польскай АН. У архіве шырока прадстаўлены эпісталярныя помнікі, у т.л. перапіска Л.Сапегі з каралём Стафанам Баторыем, віленскім ваяводам М.К.Радзівілам Сіроткам, Я.Замойскім, Я.Хадкевічам. Сустракаюцца матэрыялы пра мецэнацтва Сапегаў, выхаванне і навучанне моладзі, паездкі за мяжу, удзел у стварэнні і друкаванні Статута ВКЛ 1588, сялянска-казацкія рухі, паўстанне С.Налівайкі, ваенныя дзеянні сярэдзіны 17 ст., Берасцейскую унію 1596.

Трэці архіўны комплекс, т.зв. Варклянскі архіў, не інвентарызаваны і дакладна не апісаны, зберагае дакументы за 1815—1916. Маёнтак Варкляны (цяпер у Латвіі) да сярэдзіны 19 ст. быў уласнасцю шляхецкага роду Борхаў, потым належаў Сангушкам і Сапегам. Некат. дакументы і рукапісы, што захоўваліся ў Варклянах, пасля 1-й сусв. вайны трапілі ў Асалінэум і Гал. архіў старадж. актаў у Варшаве.

Асобныя матэрыялы з А.С. трапляюцца ў розных сховішчах. У б-цы Польскай АН у Кракаве: асабістыя дакументы віленскага каадʼютара Ю.С.Сапегі 1680—1738; копіі актаў пра «дамавую вайну на Літве» 1701; судовыя справы Сапегаў з Агінскімі; лісты 1535—1810. У Дзярж. гіст. архіве Літвы ў Вільнюсе: тастаменты, кантракты, карэспандэнцыя 1624—1760, дзельчыя лісты, генеалагічныя дакументы (ф. 139, № 1292); пасведчанне нясвіжскага архівіста Ветцэля пра «пераход правоў» на «Акты Таміцкага» ад Я.Ф.Сапегі (ф.1280, воп. 1, адз. зах. 107). У б-цы Вільнюскага ун-та: эпісталярныя помнікі, панегірыкі роду Сапегаў, інвентары сапегаўскіх двароў (Ружаны, Вільчыцы, Зэльва і інш.), сац.-эканам. акты. У Дзярж. гіст. архіве Латвіі: ваенна-дыпламатычная і паліт. карэспандэнцыя 1597—1611 (гал. ч. справы пра Інфлянты). У Нац. б-цы ў Варшаве: перапіска з замежнымі арыстакратычнымі дварамі, лісты абозавыя ваенна-паходныя 17—18 ст., у т.л. напісаныя ў час ваенных дзеянняў супраць Б.Хмяльніцкага, абароны ад туркаў, асады Магілёва 1655. Ва універсітэцкай б-цы ў Варшаве: лісты ад рымскіх пап, імператараў, польскіх каралёў, карэспандэнцыя часоў польска-шведскай вайны 1655—60. Дакументы з А.С. апублікаваны ў выданнях *К.Кагнавіцкага, А.Прахаскі, К.Ажароўскага, Б.Горчака, «Актах Віленскай камісіі», «Актах Заходняй Расіі», «Актах Паўднёвай і Заходняй Расіі», «Архіве дому Сапегаў»* і інш.

*Літ.*: Kognowicki K. Życia Sapiehów. T. 1—2. Wilno, 1790—91; Kętrzyński W. Katalog rękopisów Biblioteki Zakładu Narodowego im. Ossolińskich. T. 1—3. Lwów, 1881—98; Sapiehowie. T. 1—3. Petersburg, 1890—94; Chwalewik E. Zbiory polskie... T. 1—2. Warszawa; Kraków, 1926—27; Kieniewicz S. Adam Sapieha (1828—1903). Lwów, 1939; Rankraščių rinkinių. Vilnius, 1963; Smoleńska B., Zielińska T. Archiwalia prywatne w Archiwum Głównym Akt Dawnych w Warszawie



// Archeion. 1963. T. 39; Bańkowski P. Polskie archiwa magnackie w Centralnym Państwowym Archiwum Historycznym w Kijowie // Там жа. 1964. Ň. 40; Inwentarz rękopisów Biblioteki Jagiellońskiej. Cz. 2. Kraków, 1972; Ковальский Н.П. Источниковедение истории Украины XVI—первой половины XVII века. Ч.3. Днепропетровск, 1978; Korzeniowski J. Zapiski z rękopisów cesarskiej biblioteki publicznej w Petersburgu i innych bibliotek petersburskich // Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. Kraków, 1910. T. 11; Smolińska W. Polszczyzna północnokresowa w przełomu XVII i XVIII w. na podstawie rękopisów Jana Władysława Poczobuta Odlanickiego i Antoniego Kazimierza Sapiehy. Wrocław etc., 1983; Sapiegų giminės dokumentai: Fondo aprašas F. Nr. 1292. Vilnius, 1995; Ульяновський В.І. «Русское дело в Северо-Западном крае» через призму історії магнатських архівів Сапєг та Радзивиллів. Київ, 1998; Його ж. Архівна Сапєгіана XIX ст.: конфіскати, відкриття, використання // Гісторыя, культуралогія, мастацтвазнаўства: Матэрыялы III Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый». 1 сесія — 21—25 мая, 2 сесія — 4—7 снежня, Мінск, 2000 г. Мн., 2001.

*Георгій Галенчанка.*

**архівы Тышкевічаў.** Родавыя архівы *Тышкевічаў* захаваліся ў нязначнай колькасці. Асн. комплекс матэрыялаў захоўваецца ў рукапісным аддзеле Цэнтр. б-кі АН Літвы ў Вільнюсе (ф. 148, 296 адз. зах.; 1518—1876): дакументы і матэрыялы Ю.Тышкевіча, ваяводы берасцейскага, Я.Тышкевіча, ваяводы кіеўскага, паэта і публіцыста І.Тышкевіча, жамойцкага біскупа А.Тышкевіча, археолага, гісторыка, этнографа К.Тышкевіча. Асобны фонд 149 (130 адз. зах.; 1774—1912) складаюць дакументы і матэрыялы гісторыка, археолага і этнографа Я.Тышкевіча. Частка А.Т. захоўваецца ў б-цы Вільнюскага ун-та, Дзярж. гіст. архіве Літвы (ф. 716, 6609 адз. зах.; 1451—1883), Нац. б-цы ў Варшаве (дакументы архіва з родавога маёнтка Чырвоны Двор), львоўскай б-цы Нац. АН Украіны, вроцлаўскім Асалінэуме.

*Літ.*: Rankraščių rinkinių rodyklė. Vilnius, 1977.

*Георгій Галенчанка.*

**архівы Хадкевічаў.** Справаводства ва ўладаннях магнацкага роду *Хадкевічаў* вялося прафесійна. Пра гэта сведчыць «Книга, альбо реестр выдаванья записов, листов и квитов его милости пана (Яна Хадкевіча) разным асобам через мене Яна Окуня...», што захоўваецца ў Архіве С.-Пецярбургскага філіяла Ін-та рас. гісторыі Рас. АН. Уладальнікі Бераставіцы К.Хадкевіч і яго жонка княгіня Б.Саламярэцкая ў сярэдзіне 16 ст. захоўвалі пергаментныя і папяровыя дакументы ў скрынях з замкамі і гербавымі пячаткамі. Як вынікае з рэестра 1571, найб. стараж. актам быў пергаментны прывілей караля Аляксандра на маёнткі Рудавую, Паплаўцы, Спудзілаўцы, выдадзены ў Вільні ў 1506. Шмат увагі на архіўныя справы звярталі жамойцкі староста Я.М.Хадкевіч (памёр у 1780) і яго сын пісьменнік, член варшаўскага т-ва сяброў навук А.Хадкевіч. У 2-й пал. 18 ст. разрозненыя А.Х. былі сканцэнтраваны ў Млынаве (Валынь), створаны капійны фонд з актаў, выяўленых у кнігах Метрыкі ВКЛ, гродскіх, земскіх судоў і інш. Млынаўскі архіў у 1-ю сусв. вайну панёс значныя страты, пазней частка архіва падаравана графам М.Хадкевічам Нац. музею ў Кракаве, асн. матэрыялы ў 1937 трапілі ў Дзярж. архіў у Кракаве, куды ў 1951 перададзены і матэрыялы з Нац. музея. У дзярж. кракаўскім архіве зберагаюцца матэрыялы за 1499—1932 роду Хадкевічаў (у асноўным супрасльскай лініі) і прадстаўнікоў іншых пароднёных з Хадкевічамі родаў (Сапегі, Радзівілы, Пацы, Кішкі і інш.). Гэта соймавыя прамовы, публічна-прававыя і ваенна-паліт. акты (мандаты, універсалы, распараджэнні) польскіх каралёў і вял. князёў літоўскіх, адміністратара Інфлянтаў Я.Г.Хадкевіча, гетмана вял. літоўскага Я.К.Хадкевіча. Захоўваюцца т.зв. «зборы» за 1586—1914, пераважна ваенныя акты, дакументы, матэрыялы па гісторыі Польшчы і ВКЛ, у т.л. па геральдыцы і картаграфіі. Матэрыялы сац.-эканам. і гасп. характару тычацца ўладанняў Хадкевічаў (фальваркаў, мястэчак, вёсак). Асобныя матэрыялы з А.Х., іх карэспандэнцыя захоўваюцца ў Гал. архіве стараж. актаў у Варшаве (фонд б-кі ардынацыі Замойскіх), Курніцкай б-цы, Публічнай б-цы імя Рачынскіх у Познані, Навук. б-цы Нац. АН Украіны ў Львове, у вроцлаўскім Асалінэуме і інш.

*Літ.*: Korrespondencye Jana Karola Chodkiewicza. Warszawa, 1875.

*Георгій Галенчанка.*

**ахідыякан** (ад грэч. archi старшы, галоўны + diakonos служка), царкоўны сан. З 4 ст. старшыня калегіі *дыяканаў* пры епіскапскай кафедры. У каталіцкай царкве ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай А. — ганаровы тытул у кафедральных і калегіяцкіх капітулах, або галава адм. адзінкі епархіі — *архідыяканата*, у правасл. царкве — старшы дыякан у манастве. А. як кіраўнік архідыяканата пачаткова прызначаўся біскупам, часам выбіраўся капітулам або прызначаўся свецкім патронам; пасля Трыдэнцкага сабора поўнасцю падначалены ўладзе біскупа. Ажыццяўляў візітацыю парафій, апеку над святарамі і касцельнай маёмасцю.

*Валерый Пазднякоў.*

**архідыяканат**, у каталіцкай царкве адм.-тэр. адзінка ўнутры епархіі, на чале якой стаяў *архідыякан*. Ахопліваў ад некалькіх дзесяткаў да некалькіх сотняў парафій. Вядомы з 11 ст. ў Францыі, з 12 ст. ў Польшчы. Узнік у сувязі з цяжкасцю для біскупаў ажыццяўляць сталы кантроль над вялізнымі епархіямі. У ВКЛ былі створаны *Беларускі архідыяканат* у Віленскім біскупстве (1619, цэнтр Абольцы) і *Берасцейскі архідыяканат* ў Луцкім біскупстве (каля 1717).

*Валерый Пазднякоў.*

**архіепіскап** (у каталіцтве арцыбіскуп; ад грэч. archi старшы, галоўны + episkopos наглядчык), духоўная асоба вышэйшай (трэцяй) ступені хрысціянскай царкоўнай іерархіі. У 2—3 ст. з *епіскапаў*, роўных па сваёй уладзе, вылучыліся гал. епіскап (архіепіскап), якому давалася права царк. нагляду над іншымі. У Апостальскіх правілах (агульнахрысціянскі кодэкс, які складаўся на працягу 1—3 ст. і рэгуляваў рэліг.-царк. паводзіны недухоўных і духавенства) сцвярджалася: «Епіскапам усялякага горада належыць ведаць першага з іх і прызнаваць яго як галаву і нічога, што перавышала б іх уладу, не рабіць без яго разважання». Упершыню тытул А. прысвоены епіскапу александрыйскаму. З заснаваннем патрыярхатаў (4 ст.) тытул А. прысвойваўся патрыярхам і мітрапалітам аўтакефальных епархій. У пратэстантызме тытул А. даецца кіраўнікам цэркваў асобных краін. У ВКЛ тытул А. меў з пач. 16 ст. полацкі епіскап, часам яго ўжывалі кіеўскія мітрапаліты.

**архімандрыт** (грэч. archimandrites старшы над манастыром), вышэйшы духоўны сан у манахаў правасл. царквы. У А. пасвячаюць настаяцеляў найб. значных манастыроў, а таксама інш. духоўных асоб, якія займаюць у царкве вышэйшыя адм. пасады: рэктараў духоў-



ных семінарый і акадэмій, кіраўнікоў духоўных місій. Вядомы з 5 ст. Першапачаткова А. — ігумен, выбраны епіскапам для нагляду за манастыром. Пазней тытул стаў ганаровым, надаваўся ігуменам важнейшых манастыроў епархіі — *архімандрый*. У апошнім значэнні найменне прыйшло з Візантыі на Русь. Тытул А. насілі настаяцелі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ў Полацку. Першы з іх, Філарэт, упамінаецца пад 1396.

***Вячаслаў Зайцаў.***

**архімандрыя**, 1) буйны мужчынскі манастыр у ВКЛ, настаяцель якога насіў тытул *архімандрыта*. Да заключэння *Берасцейскай уніі 1596* настаяцелі манастыроў прызначаліся мітрапалітам або епіскапамі і былі ў залежнасці ад іх. Пасля абвяшчэння уніі ўсе манастыры, якія прынялі яе, у т.л. і А., утварылі асобную кангрэгацыю — базыльянскі ордэн (гл. ў арт. *Базыльяне*). Настаяцелі А. прызначаліся генералам ордэна або архімандрытам. Найб. вядомыя А.: Кіева-Пячэрская лаўра, *Віленскі Святадухаўскі манастыр, Слуцкі Троіцкі манастыр, Пінскі Лешчанскі манастыр Нараджэння Багародзіцы, Кобрынскі Спаскі манастыр, Ануфрыеўскі манастыр, Лаўрышаўскі Успенскі манастыр, Супрасльскі Дабравешчанскі манастыр*, Полацкі Барыса-Глебскі манастыр, Браслаўскі Узнясенскі манастыр, Гарадзенскі Барыса-Глебскі манастыр, 2) Манастыр, які атрымаў фундуш ад вял. князя ВКЛ або магната і паводле фундушовага запісу падлягаў кцітарскаму праву. Манастыр, які атрымаў фундуш ад вял. князя ВКЛ або караля Рэчы Паспалітай належаў да каралеўскіх бенефіцый і мог быць ахвяраваны духоўнай, а іншы раз і цывільнай асобе ў пажыццёвае ўладанне за пэўныя заслугі. Напр., у 1570 Жыгімонт II Аўгуст аддаў ва ўладанне шляхціца Бакі Менскі манастыр Ушэсця; у 1576 гэты манастыр перададзены шляхціцу С.Дастаеўскаму.

***Галіна Мікуць.***

**«Архіў Гістарычнай Камісіі»** («Archiwum Komisyi Historycznej»), шматтомнае серыйнае выданне дакументальных матэрыялаў 15—19 ст. Выходзіла ў 1878—1949 у Кракаве пад апекаю Гістарычнай камісіі Польскай АН. Выдадзена 16 тамоў. Пераважаюць матэрыялы крыніцазнаўчага характару або першакрыніцы па гісторыі права, царквы, грамадска-паліт., дыпламат. адносін, агляды бібліятэк і архіваў. Сярод найб. значных публікацый — 2 дыярыушы Венскага кангрэса 1515, матэрыялы па гісторыі паспалітага рушэння 1497, 1509 (т. 1), *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* (т. 7), акты кракаўскай і плоцкай капітул 1438—1523 (т. 6), дзейнасці Пастаяннай Рады (т. 12), інвентары зямельных уладанняў і даходаў (т. 10), справаздачы абследаванняў і апісанні рукапісаў і дакументаў у архівах і бібліятэках Ватыкана, Пецярбурга, Будапешта (т. 4, 5, 6, 8) і інш. Для гісторыі ВКЛ найб. значэнне маюць першая публікацыя *Полацкай рэвізіі 1552*, падрыхтаваная Ю.Шуйскім па рукапісе сярэдзіны 18 ст. з б-кі графаў Браніцкіх (т. 2), матэрыялы па гісторыі праектаў царкоўнай уніі канца 15—пач. 16 ст. (т. 5), бібліягр. працы уніяцкага гісторыка І.*Сцябельскага* (т. 1) і інш. Публікаваліся ў асн. дакументы і матэрыялы на польскай і лац. мовах, з некаторымі рэдакцыйнымі і аўтарскімі папраўкамі.

***Георгій Галенчанка.***

**«Архіў дому Радзівілаў»** («Archiwum domu Radziwiłłów»), зборнік дакументаў, што захоўваліся ў канцы 19 ст. ў Нясвіжскім архіве Радзівілаў (гл. ў арт. *Архівы Радзівілаў*). Выдадзены ў 1885 у Кракаве ў серыі «Польскія гісторыкі» («Scriptores rerum polonicarum». Т. 8). Падрыхтаваны нясвіжскім архіварыусам М.Богушам-Шышкам. Складаецца з 3 комплексаў эпісталярных дакументаў 1571—1633 на лац. і польскай мовах: прыватная карэспандэнцыя М.К.Радзівіла Сіроткі, яго перапіска з рознымі ўраднікамі, дзярж. і царк. дзеячамі ВКЛ і Польшчы; перапіска кароннага канцлера і вял. гетмана Я.Замойскага і канцлера ВКЛ, вял. гетмана літоўскага Л.Сапегі з Радзівіламі. Зборнік асвятляе ўнутраную і знешнюю палітыку кіруючых колаў ВКЛ (адносіны бел. і літ. феадалаў да Люблінскай уніі 1569, Польшчы, Расіі, Швецыі, Крымскага ханства, Турцыі, праектаў узвядзення цара Фёдара, інш. кандыдатаў на трон караля польскага і вял. князя літоўскага, адпору татарам і абмежавання казацкага сваволля). Асвятляюцца ваенныя падзеі (*Інфлянцкая вайна 1558—82*, войны з Расіяй), узбр. выступленні шляхты (*Зебжыдоўскага рокаш 1606—09*), соймавая, дыпламатычная і прыдворная дзейнасць бел. і літ. магнатаў. У перапісцы Радзівілаў з Сапегам і біскупамі закранаюцца праблемы царк. палітыкі, *Берасцейскай уніі 1596*, рэфармацыі на Беларусі і ў Літве, контррэфармацыі, дзейнасці езуіцкага ордэна. Прыведзены дакументы аб падараванні радзівілаўскіх маёнткаў віленскім біскупам (напр., с. Дварышча Лідскага пав., 1574). Ёсць звесткі пра ўдзел Л.Сапегі ў падрыхтоўцы і выданні Статута ВКЛ 1588, пра назначэнні на сенатарскія пасады, іншыя «дворскія навіны». Некаторыя лісты з'яўляюцца важнымі крыніцамі для вывучэння класавай барацьбы нар. мас Беларусі, Украіны, Літвы, паўстання пад кіраўніцтвам С.Налівайкі. Зборнік каштоўны для вызначэння сац. статуса бел.-літ. феад. знаці, вывучэння яе саслоўна-класавай і паліт. кансалідацыі, маёмаснага становішча, побыту, звычаяў, прававых, рэлігійных і грамадскіх поглядаў, ідэалогіі і культуры. Надрукаваны таксама тастамент і «Адманіторыум» (1603) Радзівіла Сіроткі — падрабязнае маральна-павучальнае і гасп.-дзелавое настаўленне яго спадкаемцам, важная крыніца для вывучэння сац. псіхалогіі, выхавання феад. моладзі.

***Георгій Галенчанка.***

**«Архіў дому Сапегаў»** («Archiwum domu Sapiehów»), зборнік дакументаў 1575—1606 пераважна з родавага архіва Сапегаў у Красічыне (каля Перамышля, гл. ў арт. *Архівы Сапегаў*). Падрыхтаваны А.*Прахаскам*, фінансаваны А.Сапегам, выдадзены 1 том у 1892 у Львове. У зборнік уключаны таксама эпісталярныя помнікі з Нясвіжскага архіва Радзівілаў, з бібліятэк ардынацыі Замойскіх (Варшава), Чартарыйскіх (Кракаў), Публічнай у Пецярбургу і інш. збораў. Змешчана 625 лістоў, з іх 279 належалі канцлеру і віленскаму ваяводу Л.Сапегу. Лісты асвятляюць дзярж.-паліт., адміністрацыйныя, гасп. і сямейна-бытавыя справы. Ёсць звесткі пра пасольствы М.Гарабурды і Л.Сапегі ў Маскву, пра адносіны з крымскімі татарамі, запарожскімі казакамі, Польшчай, папскай курыяй, Англіяй, пра планы арганізацыі агульнай дзяржавы шляхам аб'яднання Рэчы Паспалітай з Расіяй і абрання аднаго правіцеля. Пераказваюцца чуткі пра ўдзел Барыса Гадунова ў забойстве царэвіча Дзмітрыя, *Берасцейскую унію 1596*. У лістах кіеўскага уніяцкага мітрапаліта І.Пацея ёсць звесткі пра дзейнасць бел. брацтваў, непрыязныя адносіны правасл. насельніцтва Беларусі і Украіны да уніяцкай і каталіцкай цэркваў, палемічнае кніга-

друкаванне. Апісаны выступленні полацкіх гараджан 1599 супраць каляндарнай рэформы (т.зв. «каляндарныя бунты»), голад у ВКЛ 1585, паўстанне С.Налівайкі, ваенныя дзеянні казакоў і шляхецкіх войск. У лістах да Радзівілаў Л.Сапега закранаў пытанні свайго фінансавага становішча, скардзіўся, што мае 40 тыс. злотых доўгу «з свайго худога зямянства»; прыведзены звесткі пра стан Полацкага ваяводства. Публікацыя сведчыць пра групавыя і сямейныя інтарэсы арыстакратыі, яе нац. і паліт. свядомасць, адкрытую і закулісную дзейнасць. Дакументы апублікаваны ў храналагічным парадку, маюць археагр. і біяграфічна-гіст. каментарыі ў адпаведнасці з рэкамендацыямі Польскай АН. Ёсць геагр. і імянны паказальнікі. Прахаска падрыхтаваў таксама наступныя тамы, якія засталіся ў рукапісах.

*Літ.*: Ковальский Н.П. Источниковедение истории Украины XVI—первой половины XVII века. Ч. 3. Днепропетровск, 1978; Щербина В. Новые материалы для истории Руси Литовской и Московской в конце XVI и начале XVII столетий // Чтения в Ист. о-ве Нестора-летописца. Киев, 1894. Кн. 8; Пташицкий С. Переписка литовского канцлера Льва Ивановича Сапеги // Журн. Мин-ва народного просвещения. 1893. № 1.

***Георгій Галенчанка.***

**«Архіў князёў Любартавічаў-Сангушкаў у Славуце»** («Archiwum książąt Lubartowiczów Sanguszków w Sławucie»), зборнік дакументаў па гісторыі Беларусі, Украіны (пераважна Валыні) і Літвы 13—16 ст. (т. 1—7, Львоў, 1887—1910). У яго ўключаны дакументы з архіва *Сангушкаў*, што знаходзіўся ў мяст. Славута (б. Заслаўскі пав. Валынскай губ., цяпер Хмяльніцкая вобл. Украіны), а таксама з кніг Метрыкі ВКЛ, львоўскага Асалінэума, Публічнай б-кі ў Пецярбургу, Нясвіжскага архіва Радзівілаў і інш. Зборнік друкаваўся на сродкі кн. Р.Сангушкі, уладальніка Славуты. Дакументы адбіраў і апрацоўваў хавальнік архіва ў Славуце Б.Горчак, рэдактарам быў гісторык З.Радзімінскі. Большасць дакументаў надрукавана з арыгіналаў на бел. і ўкр. мовах.Змешчаны дакументы вярх. улады Польшчы і ВКЛ (каралеўскія і вялікакняжацкія лісты, інструкцыі, даравальныя і пацвярджальныя прывілеі, у т.л. на бел. маёнткі, мястэчкі, гарады, замкі, на заснаванне таргоў і кірмашоў, на падатковыя льготы, выдадзеныя Сангушкам, Заслаўскім, Карэцкім, Слуцкім, Гальшанскім, Кішкам і інш. буйным феадалам. Асобнае месца займае т.зв. «Кніга Боны» — зборнік копій афіцыйна зацверджаных дакументаў пра бел., укр. і літ. уладанні Астрожскіх. Надрукаваны прывілеі на магдэбургскае права, акты намінацыі на дзярж. пасады, пастанова Віленскага сойма 1528 пра колькасць узбр. коннікаў, якія выстаўляліся шляхтай са сваіх уладанняў, рэестр Берасцейскай зямлі 1-й пал. 16 ст. Сярод гаспадарскіх інструкцый і пасланняў змешчаны дакументы, адрасаваныя адміністрацыі пагранічных замкаў, казакам. Ёсць звесткі пра асобныя соймавыя і дзярж. справы (запрашэнне ўсім князям Слуцкім на абмеркаванне паліт. становішча ВКЛ, якое склалася пасля ўзяцця Полацка войскамі Івана IV у 1563, пра пасольства Б.Корсака ў Маскву 1562 і інш.). Прыватна-прававыя акты адлюстроўваюць сац.-эканам. і сямейна-бытавыя адносіны (шлюбныя дагаворы, купчыя, прадажныя, застаўныя, дзельчыя лісты, тастаменты, фундушы і інш.). Змешчана перапіска Сангушкаў з Хадкевічамі і Радзівіламі. Археаграфічны ўзровень публікацыі высокі, ёсць прадмова, археаграфічныя легенды, каментарыі, геаграфічныя і імянныя паказальнікі.

*Літ.*: Gorczak B. Katalog rękopisów archiwum Ks. Sanguszków w Sławucie i historja tegoż archiwum. Sławuta, 1902; Chwalewik E. Zbiory polskie, archiwa, biblioteki, gabinety... Warszawa, 1916; Ковальский Н.П. Источниковедение истории Украины XVI—первой половины XVII века. Ч. 3. Днепропетровск, 1978.

***Георгій Галенчанка.***

**«Архіў па гісторыі літаратуры і асветы ў Польшчы»** («Archiwum do dziejów literatury i oświaty w Polsce»), гісторыка-літаратурнае і крыніцазнаўчае серыйнае выданне. Выходзіла ў Кракаве ў 1878—1937 (т. 1—19). Сярод апублікаваных матэрыялаў дакументы па гісторыі філас. факультэта Кракаўскага ун-та 16 ст. (т. 4, 1886), дзе вучылася шмат літвінаў; бібліяграфічны агляд Ю.Кажанёўскага дакументаў па гісторыі Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны (т. 11, 1910); карэспандэнцыя Сапегаў, Радзівілаў, Хадкевічаў, Пацаў, Тышкевічаў, кніга М.К.Радзівіла Сіроткі «Пэрэгрынацыя» (т. 15, 1925). Асвятляецца гісторыя культ. сувязей Беларусі і Літвы з Польшчай, Італіяй, інш. зах.-еўрап. краінамі, Рус. дзяржавай.

***Георгій Галенчанка.***

**«Архіў Паўднёва-Заходняй Расіі»** («Архив Юго-Западной России, издаваемый Комиссией для разбора древних актов, состоящей при киевском, подольском и волынском генерал-губернаторе»), выданне гіст. дакументаў і літаратурных помнікаў 14—18 ст. пераважна Правабярэжнай і Зах. Украіны, часткова Беларусі. Выдадзена ў Кіеве ў 1859—1914 у 35 тамах (падзяляецца на 8 частак). У выданні ўдзельнічалі У.Б.*Антановіч*, М.Дз.Іванішаў, І.М.Каманін, А.І.Лявіцкі, М.Ф.*Уладзімірскі-Буданаў* і інш. Частка 1 (12 т.) уключае дакументы 14—18 ст. па гісторыі правасл. царквы і яе ўзаемадачыненнях з каталіцкай: каралеўскія прывілеі, папскія булы, патрыяршыя граматы, акты правасл. і уніяцкіх сабораў, правасл. брацтваў, цэркваў і манастыроў, у т.л. слуцкіх; дакументы пра падпарадкаванне кіеўскага мітрапаліта маскоўскаму патрыярху (т. 5), пра заключэнне і распаўсюджанне царкоўнай уніі ў Рэчы Паспалітай (т. 6); помнікі літаратурнай палемікі католікаў, уніятаў і праваслаўных (т. 7—9). Частка 2 (3 т.) — пастановы мясц. соймікаў, інструкцыі паслам на сойм, адказы караля на просьбы шляхты за 1596—1726. Частка 3 (6 т.) — дакументы пра казакоў, *Налівайкі паўстанне 1595—96*, казацкія рэйды па Украіне і Беларусі ў 16—17 ст. (у т.л. пра напады на маёнткі епіскапа К.Цярлецкага ў Пінскім пав. ў 1596, на Брагінскі замак у 1606, на маёнткі кн. Л.Саламярэцкага ў Пінскім пав. ў 1613), пра антыфеад. і нац.-вызв. вайну ўкр. народа 1648—54, антыфеад. вайну 1648—51 на Беларусі, гайдамацкі рух, пра дыпламат. зносіны гетманскага ўрада з Расіяй, Польшчай і інш. дзяржавамі 1679—1716. Частка 4 (1 т.) — дакументы пра паходжанне шляхецкіх родаў 1443—1780. Частка 5 (2 т.) — дакументы па гісторыі гарадоў 1432—1798 і стан яўрэйскага насельніцтва 1765—91. Частка 6 (3 т.) — дакументы пра эканам. і прававое становішча сялян 1498—1795, у т.л. ўстава гаспадарскіх двароў Віленскага і Троцкага ваяв. 1542, устаўная грамата сялянам Віцебскага фарнага касцёла 1547, «Устава на валокі» ва ўладаннях каралевы Боны 1552. Прывілей Жыгімонта Аўгуста кн. А.Ф.Чартарыйскаму на заснаванне мястэчак у Сталавічах і Хінічах 1561. Частка 7 (3 т.) — вопісы замкаў, люстрацыі староstваў, інвентары уладанняў, скаргі, данясенні мясц. адміністрацыі 15—18 ст., у т.л. інвентар Мазырскага замка і валасці



1552. Частка 8 (6 т.) — дакументы па гісторыі мясц. кіравання, саслоўяў, права, судаводства 15—18 ст., у т.л. прывілеі на Сталавічы пану Няміру Разанавічу 1452, кн. А.Ф.Чартарыйскаму на маёнткі ў Навагародскім пав. 1530, кн. А.М.Вішнявецкаму на Рэчыцкую вол. 1532, дакументы пра Мазырскую вол. 16 ст., рэвізія Мазырскага староства 1560. Кожнаму тому папярэднічае прадмова з аналізам дакументаў, ёсць імянныя і геагр. паказальнікі. Выданне мае вял. навук. каштоўнасць для вывучэння гісторыі Украіны і Беларусі 14—18 ст.

*Літ.*: Сведения о деятельности Киевской комиссии для разбора древних актов // Сб. статей и материалов по истории Юго-Западной России. Киев, 1911. Вып. 1; Журба О.І. Київська археографічна комісія: Нарис історії і діяльності. Київ, 1993.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Архіў Яна Замойскага»** («Archiwum Jana Zamoyskiego kanclerza i hetmana wielkiego koronnego»), зборнік дакументаў і матэрыялаў за 1553—84 кароннага канцлера і вял. гетмана Я.Замойскага, які адыгрываў важную ролю ў паліт. жыцці Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 16 ст. (т. 1—3, Варшава, 1904—13). Пісьмовыя крыніцы выяўлены В.Сабескім у б-цы ардынацыі Замойскіх. У перапісцы Замойскага з Радзівіламі, Слуцкімі, Валовічамі, Кішкамі і інш. магнатамі, уплывовымі паліт. і дзярж. дзеячамі Рэчы Паспалітай адлюстраваны ваенна-паліт. і царк.-рэліг. адносіны Польшчы з ВКЛ, Расіяй, Турцыяй, Валахіяй, інш. дзяржавамі, сямейна-бытавыя пытанні.

***Георгій Галенчанка.***

**Арцемій** (?—1570), рускі царкоўны дзеяч і публіцыст, прадстаўнік рэлігійнага вальнадумства, прыхільнік несцяжацельства. З 1536 манах у Парфір'евай пустыні каля Кірыла-Белазерскага манастыра. Узвысіўся пры цару Іване IV Грозным, перапісваўся з ім. У 1551 прызначаны ігуменам Троіца-Сергіева манастыра, у 1552 самавольна вярнуўся ў Парфір'еву пустынь. Выступаў супраць прыхільнікаў манастырскага землеўладання. У 1553 выкліканы на царкоўны сабор сведкам па справе вальнадумца М.Башкіна. У 1554 абвінавачаны ў ерасі, адлучаны ад царквы і сасланы ў Салавецкі манастыр. Каля 1554—55 уцёк у ВКЛ. Спачатку жыў у Віцебску, дзе зноў зблізіўся з Феадосіем *Касым*, які таксама ўцёк сюды са зняволення. Пасля выгнання з Віцебска пасяліўся ў Слуцку пры двары кн. Ю.Ю.Алелькавіча. Займаўся літ. дзейнасцю, вёў барацьбу супраць каталіцтва і лютэранства ў абарону праваслаўя. Быў асабіста знаёмы з бел. дзеячамі рэфармацыйнага руху С.*Будным*, А.*Каладынскім*, І.Зарэцкім, выступаў супраць *антытрынітарыяў*. У 1562 Будны паслаў А. свой «Катэхізіс», выдадзены ў Нясвіжы. А. адказаў яму некалькімі пасланнямі (захаваліся 2 лісты «до Симона еретика Будного»), у якіх папракнуў яго за памылковыя думкі і заклікаў адмовіцца ад ерасі. Разам з тым А. высока ацаніў асобу і веды Буднага, назваў яго чалавекам, узбагачаным найвышэйшым сэнсам і розумам. А. — аўтар 16 пасланняў, 9 з якіх напісаны ў Слуцку. Зарэкамендаваў сябе таленавітым публіцыстам, быў пад моцным уздзеяннем *патрыстыкі*. Адстойваў ідэі духоўнага самаўдасканалення, чалавекалюбства, цярпімасці да «ератыкоў», разумнага пераканання, любві да «кожнага слова». Пасланні А. — каштоўны помнік рус.-бел. палемічнай л-ры сярэдзіны 16 ст. і гіст. крыніца аб падзеях і ідэйных працэсах таго часу на Беларусі.

*Тв.*: Послания Старца Артемия, XVI века // Русская историческая библиотека. СПб., 1878. Т. 4.

*Літ.*: Зимин А.А. И.С.Пересветов и его современники. М., 1958; Вилинский С.Г. Послания старца Артемия (XVI века). Одесса, 1906; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973.

***Генадзь Грушавы.***

**арцыбіскуп**, духоўны сан у каталіцкай царкве, які адпавядае сану *архіепіскапа* ў правасл. царкве. У ВКЛ А. часта называлі і архіепіскапаў грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы.

**аршанскае права**, своеасаблівы юрыдычны статут гарадскога саслоўя, які ў адпаведнасці з нормамі *магдэбургскага права* сфарміраваўся ў Оршы на працягу 14—17 ст. У 1562 вял. князь ВКЛ Жыгімонт Аўгуст задаволіў просьбу аршанцаў прызнаць законным выбранне на сходзе ў 1559 войтам горада М.Мыльнікава. У склад гар. самакіравання было выбрана яшчэ 6 чалавек. Сход даручыў ім адм. і судовыя функцыі і абавязаў штогод рабіць справаздачу. У 1577 вял. князь ВКЛ Стафан Баторый зацвердзіў пастановы гараджан і права на самакіраванне. Як сведчыць велікакняжацкая грамата 1593, аршанцы ўдасканалілі прынцыпы магдэбургскага самакіравання ў горадзе. Паводле А.п., яно складалася з войта і 4 сотнікаў. У 1620 горад атрымаў грамату на поўнае магдэбургскае права, якое аршанцы выкарысталі для таго, каб скласці ў сак. 1621 уласны статут. З тэксту статута відаць, што гараджане аспрэчвалі юрыд. аўтарытэт магдэбургскага права і былі нязгодныя з шэрагам яго норм. На іх думку, у ім недакладна вызначаны прынцыпы падзелу маёмасці. Не было, на іх думку, у гэтым праве «дэкларацыи досконалое» аб меры пакарання за паклёп і хлусліва сведчанне на судзе. Адхілялі яны не толькі пэўныя нормы магдэбургскага права, але і устарэлыя нормы вечавога права. Патрэбныя нормы яны бралі ў Статуце ВКЛ 1588, статутах Кракава і Вільні, пастановах соймаў, у асабістым вопыце. Аршанскі статут змяшчаў 23 раздзелы. Яго нормы рэгулявалі дзейнасць гар. рады, яе судовыя функцыі, маёмасныя і асабовыя адносіны жыхароў горада.

*Літ.*: Капыскі З.Ю. Аршанскае права // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 2; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975.

***Зіновій Капыскі.***

**Аршанская бітва 1514**, адна з буйнейшых бітваў *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22*. Адбылася 8.9.1514 пад Оршай. Неўзабаве пасля капітуляцыі перад маскоўскімі войскамі Смаленска (жн. 1514) вял. князь маскоўскі Васіль III паслаў 80-тысячнае коннае войска з баяр і «людзей вайсковых» на чале з кн. М.І.Булгакавым-Голіцай і І.А.Чалядніным у напрамку Оршы і Друцка. Вял. князь ВКЛ і кароль польскі Жыгімонт Стары сабраў войскі абедзвюх сваіх дзяржаў: апалчэнне ВКЛ пад камандаваннем найвышэйшага гетмана К.І.*Астрожскага* (16 тыс. коннікаў), 14 тыс. польскіх коннікаў, 3 тыс. наёмнай пяхоты, атрады паноў з Малой Польшчы і шляхціцаў-добраахвотнікаў з Вял. Польшчы (2500 коннікаў). Жыгімонт застаўся ў Барысаве з 4—5 тыс. войска, а асноўныя сілы (больш за 30 тыс. чал.) на чале з Астрожскім пайшлі пад Оршу. Атрадамі войск камандавалі Ю.*Радзівіл*, Ю.С.Алелькавіч, Я.Свярчоўскі і інш., значную яго колькасць складалі беларускія воіны (летапісы і хронікі называюць войска «літоўскім»). Першы бой адбыўся 27.8.1514 на левым беразе Бярэзіны ў час пераправы атрадаў ВКЛ. У гэтым баі разбіта некалькі маскоўскіх палкоў. Потым атрады І.Б.Са-



пегі нанеслі паражэнне маскоўскім войскам на р. Друць. Рускае войска пераправілася на левы бераг Дняпра і стала паміж Оршай і Дуброўнай на р. Крапіўне. Тут, недалёка ад Аршанскага замка, і адбылася вырашальная бітва. Частка бел.-літ. і польскай конніцы без страт пераправілася цераз Днякро. Вышэй па цячэнні ад месца пераправы конніцы праз патаемна наведзены наплаўны мост раку перайшлі пяхота, конніца і артылерыя. Пасля кароткай прамовы Астрожскі павёў у атаку конніцу і пяхоту на расцягнутыя парадкі маскоўскага войска. Пачалася жорсткая бітва з палкамі Булгакава-Голіцы. Чаляднін у бой не ўступіў, а калі ўдар абрынуўся на яго палкі, ад бою ўхіліўся Булгакаў-Голіца. Хітрым манеўрам пад выглядам адступлення Астрожскі ўцягнуў праціўніка ў пагоню і вывеў яго пад агонь сваіх замаскіраваных гармат. Пасля гэтага ён зноў нанёс удар па палках Булгакава-Голіцы, якія былі разгромлены, частка воінаў трапіла ў палон. Таксама былі разгромлены і палкі Чалядніна. У маскоўскім войску пачалася паніка. Многія з уцекачоў загінулі ў Дняпры і Крапіўне (апошняя была запруджана целамі). Месца бітвы было ўслана забітымі. Дакументальныя звесткі пра страты супярэчлівыя; паводле рус. летапісаў, хронік і звестак С.Герберштэйна, страты маскоўскага войска склалі каля 40 тыс. чалавек забітымі. У палон трапілі Булгакаў-Голіца, Чаляднін і яшчэ 8 ваявод, 17 інш. военачальнікаў, 2 тыс. «дзяцей баярскіх» і больш за 2 тыс. воінаў. Пераможцам раздалі 20 тыс. трафейных коней і палавіну абозу. Васіль III заявіў, што для яго тыя, хто трапіў у палон, мёртвыя. Дзесяткі гадоў заставаліся палонныя ў Вільні і ў розных гаспадарскіх дварах і валасцях. Чаляднін памёр у Вільні праз некалькі гадоў, Булгакаў-Голіца вярнуўся на радзіму ў 1552.



**Аршанская бітва.** Фрагмент карціны 16 ст.

АРШАНСКАЯ БІТВА 1514 г.





Перамога ў А.б. дала магчымасць адваяваць Дуброўну, Мсціслаў і Крычаў. Смаленск узяць не ўдалося, аднак пасля бітвы да 1518 не адбывалася ўварванняў маскоўскіх войск у ВКЛ (за выключэннем асобных набегаў). Апісанне бітвы з вершаванымі ўстаўкамі, прысвечанымі ёй, змешчана ў хроніцы М.Стрыйкоўскага. На тэму А.б. ў 1520—30-х г. напісана батальная карціна (аўтар невядомы; зберагаецца ў Нац. музеі ў Варшаве) — першая ва Усх. Еўропе.

*Літ.*: Любавский М.К. Литовско-русский сейм. М., 1900. С. 200—202; Korzon T. Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. 2 wyd. Lwów etc., 1923. T. 1. S. 258—259; Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864. Warszawa, 1965. T. 1. S. 333—336; Зимин А.А. Россия на пороге нового времени: (Очерки полит. истории России первой трети XVI в.). М., 1972. С. 166—167; Wojciechowski Z. Zygmunt Stary (1506—1548). Warszawa, 1979; Żygulski Z. jun. «Bitwa pod Orszą» — struktura obrazu // Rocznik historii sztuki. Warszawa, 1981. T. 12; Грыцкевіч А., Трусаў А. Бітва пад Оршай // Мастацтва Беларусі. 1990. № 8; Грыцкевіч А. Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. // Спадчына. 1992. № 6; Яго ж. Бітва пад Оршай // Бацькаўшчына: Зб. гіст. літаратуры. Мн., 1996; Акіншэвіч Л. Бітва пад Воршаю 1514 году // Полымя. 2003. № 3.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Аршанскі езуіцкі калегіум.** Існаваў у 1616—1820 у г. *Орша*. Засн. каралём Жыгімонтам III Вазам і Л.І.Сапегам. У 1609 Жыгімонт III падараваў езуітам для арганізацыі рэзідэнцыі 11 валок зямлі. У 1611 пачалося будаўніцтва касцёла св. Міхала і калегіума, які адчынены ў 1616. Пры калегіуме існавала б-ка, дзейнічалі аптэка, муз. бурса (упершыню ўпамінаецца з 1623), з 1620-х г. — школьны тэатр. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1655—61 будынкі касцёла і калегіума былі зачынены і разбураліся, пасля вызвалення — адрамантаваны. З 2-й пал. 17 ст. ў касцёле праходзілі соймікі Аршанскага пав. У 1680 А.е.к. знішчаны пажарам. У 1683 адноўлены калегіум, у 1693 — касцёл, які меў 2 вежы і мураваную званіцу. У 1717 пачалося буд-ва новага, мураванага калегіума, а ў 1741 — мураванага касцёла. Працы па ўзвядзенні касцёла вяліся прыкладна да 1765; разабраны ў сярэдзіне 19 ст. У канцы 17 ст. ў калегіуме створаны рукапісны *«Аршанскі кодэкс»*.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Коллегиумы Белоруссии XVII в. // Архитектурное наследство. М., 1969. Вып. 18; Хмяльніцкая Л., Цішкін І. Езуіцкі калегіум у Оршы // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 3.

***Валерый Грынявецкі.***

**Аршанскі замак.** Існаваў у 14—17 ст. у г. *Орша*. Размяшчаўся ў сутоках Дняпра і Аршыцы на месцы гарадзішча 11 ст. Мураваны 5-вежавы замак узводзіўся з 1398 па 1407 мясц. насельніцтвам пры ўдзеле майстра-муляра з Караляўца (Кёнігсберга). Па эканам. і паліт. прычынах быў не да канца змураваны і ў 15 ст. дабудаваны з дрэва. Падмурак сцен і вежаў замка стаяў на вапнавай падушцы, меў вышыню каля 1 м і быў складзены з валуноў сярэдніх памераў. Сцены зроблены ў тэхніцы «паласатай муроўкі», дзе рады падагнаных валуноў выраўнаваны радамі буйнапамерных цаглін. Сістэма цаглянай муроўкі «балтыйская» — чаргаванне 2 рубаў і 1 старчака, што дае магчымасць датаваць А.з. канцом 14—15 ст. і дадаткова пацвярджае пісьмовыя сведчанні пра тагачасныя будаўнічыя работы. Паводле пісьмовых крыніц 16—17 ст., уваход у замак з 3 быў праз мост, перакінуты цераз роў, які жывіўся вадою Аршыцы. У 1560 2-ярусная драўляная замкавая брама на мураваным фундаменце мела сістэму запорных канструкцый. Унізе брамы стаяла вял. бронзавая гармата, другая невял. жалезная гармата знаходзілася на 2-м паверсе. Брамны праём зачыняўся «ўзводам» — пад'ёмным мостам. Праслам сцяны брама злучалася з 2-яруснай, напалову «мурам абмураванай» вежай, што знаходзілася злева. Тут стаяла невял. гармата. Далей мур ішоў на У і ўпіраўся ў 3-ю вежу, да ўзроўню 2-га яруса мураваную, а вышэй зробленую з дрэва. Ніжнюю частку яе займаў цэйхгауз, дзе было 33 гакаўніцы, 20 аркебузаў, 3 невял. жалезныя гарматы, старасвецкі жалезны «кий ку стрелбе», запас гарматных ядраў, куль, свінец, порах, салетра, сера, кнаты і інш. На беразе Дняпра размяшчалася чацвёртая 2-павярховая вежа з гарматай. Пад мураванай сцяной знаходзіўся «тайник деревянный, фундованный для воды у Днепр». Па краі высокага правага берага Дняпра ішла сцяна да 5-й вежы. На версе прасел замкавых сцен, на кансольных бэльках была зроблена баявая галерэя — «обланки», дзе стаялі гарматы, тут жа бліжэй да брамы вісеў «звон великий з клепалом», у які званілі «на трывогу». Унутры замка, ушчыльную да мураваных сцен, прымыкала 101 драўляная гародня, дзе ў ваенны час мелі «клети на своё схованье часу потребы» і свайго скарбу гараджане, шляхта і сяляне замкавай воласці. Перыметр мураванага замка складаў 354 м. У канцы 16 ст. А.з. яшчэ не быў дабудаваны. Маскоўскі дзяк Трыфан Карабейнікаў, праязджаючы ў студз. 1593 праз Оршу, адзначыў: «Городок Орша каменный, стоит на реке Непре на берегу с Литовской стороны, а верхней бой на стене и на башнях деревяной». У 1594 кароль Жыгімонт III абавязаў аршанцаў драўляныя «бланки на стене замковой от Иршицы оправлять и знову заробити, кгды опадуть». Замак даглядалі сяляне замкавай воласці, яны разам з гараджанамі рамантавалі мураваныя і драўляныя сцены, папраўлялі мост перад замкам і замкавы стаў. У 1529 да іх былі далучаны людзі Гарадзеншчыны — Васілішак, Дубічаў, Астрыны і з Любашанскай вол. ў Магілёўскім Падняпроўі. Паводле «Уставы повинностей» за 1560, мяшчане-аршанцы абавязваліся «в замку одну стену будавати, стацею послам и гонцам давати, а подводныя пенязи… давати и сторожу замковую полнити». Акрамя таго, унутры замка з боку Аршыцы яны «водлуг стародавнего звычаю» будавалі гародні, падтрымлівалі ў добрым стане тайнік, капалі яму пад пад'ёмным мостам, давалі 2 начных вартаўнікоў і «воротного меркуля водлуг старого звычаю». Пасля 1620 А.з. быў цалкам дабудаваны з каменю («камень дич до зубцоў»). Зубцы, відаць, былі з цэглы. Вышыня замкавых муроў да зубцоў была не аднолькавая: з небяспечнага «приступнага» боку — з Пн і З да 8 м, з бакоў, абароненых рэкамі і высокім берагам, — 5,3 м, шырынёю сцяна замка была «в сажень» (каля 2 м). У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* замак прыйшоў у поўны заняпад і пазней не выконваў сваіх абарончых функцый.

*Літ.*: Второе хождение Трифона Коробейникова // Чтения в О-ве истории и древностей Российских. 1887. Кн. 1. С. 5; Документы Московского архива Министерства юстиции. М., 1897. Т. 1. С. 123—130; Иоасафовская летопись. М., 1957. С. 180—181; Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 66, 72, 145, 147.

***Міхась Ткачоў.***

**Аршанскі кляштар бернардзінцаў.** Існаваў у 1636—1832 у г. *Орша*. Засн. Андрэем і Крысцінай Млоцкімі, якія выдзелілі пад кляштар пляці 6 маргоў зямлі. Мураваныя будынкі касцёла і 2-павярховага жылога корпуса пастаўлены ў 2-й пал. 18 ст. на ахвяраванні жыхароў. Касцёл, пашкоджаны паводкай 1760, пазней заняты пад ваенны склад, у 1817—19 адрамантаваны і вернуты духавенству. Пасля закрыцця кляштара (1832) жылы корпус заняты пад шпіталь. Касцёл не захаваўся.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Аршанскі кляштар дамініканцаў.** Існаваў у 1653—1832 у г. *Орша*. Заснаваў кн. Геранім Друцкі-Саколінскі, які даў кляштару фальварак Воскава. У 1816—19 пабудаваны касцёл св. Іосіфа. Пры кляштары быў шпіталь на 10 ложкаў. Пасля закрыцця кляштара касцёл стаў парафіяльным. Пасля 2-й сусв. вайны ў ім размяшчаўся Дом культуры, з 1990 дзейнічае.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Аршанскі кляштар трынітарыяў.** Існаваў у 1714—1832 у г. *Орша*. Засн. Адамам і Уладзіславам Саковічамі. Мураваныя будынкі касцёла і 2-павярховага жылога корпуса пастаўлены ў 18 ст. Касцёл у 1836 пераабсталяваны пад правасл. Васкрасенскі сабор, у 1920-я г. закрыты, у 1950-я г. знесены. Захаваўся жылы корпус.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Аршанскі кляштар францысканцаў.** Існаваў у 1680—1832 у г. *Орша*. Заснаваны рэчыцкім стольнікам Войцехам Станіславам Катоўскім. Мураваны касцёл з бакавой вежай-званіцай асвячоны 10.8.1768. Тады ж пабудаваны жылы корпус. Пасля закрыцця кляштара ў яго будынку размяшчаліся інвалідная каманда, потым арыштанцкі дом, у 1920—30-я г. рамеснае вучылішча. Касцёл знесены ў 1970-я г.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**«Аршанскі кодэкс»**, рукапісны зборнік канца 17 ст. (да 1693). Створаны ў *Аршанскім езуіцкім калегіуме*. Уключае 4 польскія барочныя драмы з бел. інтэрмедыямі, якія ставіліся ў школьных тэатрах у Полацку («Духоўнае прычасце святых Барыса і Глеба»), Оршы («Слаўная дапамога да Раміравай перамогі, учыненая анёльскімі палкамі»), Навагародку («Містычнае прычасце ў жалю нявінных Караля і Фрыдэрыка»), Віцебску («Містычнае вяселле прычасця Генсерыка і Трызімунда»). «А.к.» змяшчае 7 інтэрмедыйных тэкстаў, дзе адна або дзве асобы гавораць на бел. мове. Зберагаецца ў б-цы імя Асалінскіх у Вроцлаве (Польшча).

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаваннi славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 175—192.

*Адам Мальдзіс.*

**Аршанскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 16—18 ст. Папярэднікам А.п. было Аршанскае (Рошскае) намесніцтва, утворанае ў 1392 пасля прамога падпарадкавання Оршы вял. князю ВКЛ Вітаўту. Відаць, яно ўваходзіла ў склад Віцебскай зямлі і падзялялася на шэраг валасцей. У 15—пач. 16 ст. значная іх частка шляхам велікакняжацкіх падараванняў перайшла ва ўласнасць буйных феадалаў (пераважна правасл. князёў). Князі Друцкія-Пуцяцічы набылі Басею, Горкі, Горы, Шышава, князі Друцкія-Бабічы — Брухава, Куцейна, Ламачын, Мошкава, Прыхабы, Судзілавічы, Сялец, князі Адзінцэвічы — Гальцова, Рэпухаў. Воласці Копысь (з Баранню) і Раманава перайшлі да князёў Гальшанскіх. Каталіцкім панам Гаштольдам належаў Шклоў, Глябовічам — Дуброўна і Расасна. Маёнткам Межава валодаў пан П.Фурс, потым князі Заслаўскія. У падпарадкаванні аршанскага намесніка да пач. 16 ст. засталіся Бабіна, Баева, Дзевіна і Заазер'е. Велікакняжацкай уласнасцю заставаліся Смаляны, пакуль у 1543 каралева Бона не прамяняла іх кн. В.Сангушку. Невядомы ў гэты час статус Любавіцкай вол., якая пазней належала панам Статкевічам-Заверскім. З 16 ст. пачалі ўжывацца тэрміны «павет» ці «староства». Намеснікамі-старастамі А.п. былі князі Ф.І.Заслаўскі (1501—38), В.Ю.Друцкі-Талачынскі (1538—46), А.І.Друцкі-Азярэцкі (1546—58), пан П.Д.Корсак (1559), кн. А.С.Адзінцэвіч (1560—66). Пасля ўключэння Смаленскай зямлі ў склад Расіі А.п. стаў пагранічным і неаднойчы быў тэатрам ваен. дзеянняў паміж войскамі ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы. Так, на працягу 1508—64 рус. войскі 6 разоў захоплівалі і спусташалі Оршу і яе ваколіцы, тройчы даходзілі да Друцка, двойчы — да Шклова і Копысі. На р. Крапіўна адбылася *Аршанская бітва 1514*. Паводле адм. рэформы ВКЛ 1565—66 памеры А.п. значна павялічаны. У яго ўвайшлі б. *Лукомскае княства* з буйным маёнткам Чарэя, Барысаўскае староства (да р. Бярэзіна), паўд. частка б. Аболецкага пав. з Алексінічамі, Беліцай і Палоннам, уся тэр. *Друцкага княства* ад Бабра да Стараселля, далучаны таксама Магілёўскае староства, Любашанская і ўсх. частка Свіслацкай дзярж. валасцей, шэраг прыватнаўласніцкіх маёнткаў уздоўж Дняпра (Баркалабаў, Буйнічы, Быхаў,




Аўтар карты М.Ф.Спірыдонаў

Новы Быхаў) і на 3 ад яго (Цяцерын з Бялынічамі, Галоўчын з Княжыцамі). У ваенных адносінах шляхецкае апалчэнне (харугва) А.п. падпарадкоўвалася віцебскаму ваяводу, буйныя магнаты выстаўлялі свае атрады асобна. Сцягам А.п. была харугва зялёнага колеру з выявай «Пагоні», аднолькавая з харугвай Віцебскага пав. У канцы 16—1-й пал. 17 ст. на тэр. павета сфарміравалася латыфундыя Сапегаў, якім належалі частка Лукомскага княства, Чарэя з Худавам, Талачын і Стараселле з вял. часткай Друцкага княства, Цяцерын з Бялынічамі і Круглым, часткі Басеі, Гор, Горак і Шышава, Аршанскае і Магілёўскае стараствы, Любашанская дзярж. воласць. Буйнымі землеўладальнікамі былі князі Галоўчынскія (Галоўчын, Княжыцы, Новы Быхаў), Друцкія (частка Друцка, Горы, Саколіна), Зіноўевічы (Беліца), Лукомскія (частка Лукомля, Мялешкавічы, Шчыдуты), Сангушкі (Абольцы, Брухава, Крупкі, Смальяны), Статкевічы-Заверскія (Баркулабаў, Любавічы, Расасна, Чаркасаў), Глябовічы (Беліца, Дуброўна, Расасна), Радзівілы (Барысаўскае староства, Барань, Копысь, Раманава), Хадкевічы (Бобр, Быхаў, Шклоў). Акрамя таго, у А.п. налічвалася некалькі дзесяткаў дробных маёнткаў



мясц. шляхты. На тэр. павета здаўна існавалі правасл. манастыры Чарэйскі Троіцкі і Магілёўскі Пячэрскі, у 1620-я г. створаны Куцеінскі (каля Оршы), Буйніцкі і Баркулабаўскі. Узніклі (пераважна ў маёнтках магнатаў) каталіцкія касцёлы і кляштары. Так, Сапегі заснавалі каталіцкія кляштары ў Быхаве (каля 1620), Бялынічах (1623), Чарэі і Беліцы. З'явіліся каталіцкія кляштары ў Оршы. З канца 16 ст. існаваў кляштар у Лукомлі, з 1653 — у Чавусах. Касцёлы ўзніклі ў большасці мястэчак, што дазволіла стварыць у складзе Віленскага біскупства асобны Аршанскі дэканат (А.п. і суседняе Мсціслаўскае ваяв.). Быў заснаваны і *Аршанскі езуіцкі калегіум* з вял. зямельнымі ўладаннямі. Да езуіцкай Віленскай акадэміі перайшоў ад Сапегаў маёнтак Пачаевічы. Да пач. 17 ст. найбуйнейшым горадам павета стаў Магілёў. Значнымі мястэчкамі былі Бобр, Быхаў, Бялынічы, Галоўчын, Горы-Горкі, Копысь, Лукомль, Раманава, Стараселле, Талачын, Шклоў, пазней Крупкі, Халопенічы, Чавусы. Пасля адм. рэформы ВКЛ 1565—66 пасады старасты займалі Ф.С.Кміта-Чарнабыльскі (1566—87), А.І.Сапега (1588—1610), А.Д.Сапега (1610—35), Р.Е.Друцкі-Горскі (1635—50), М.Друцкі-Горскі (1650—1651), К.Л.Сапега (1651—56). Паўд. частка А.п. была арэнай баявых дзеянняў казацкіх загонаў С.Налівайкі (1595) і ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. У 1654 амаль увесь павет заняты рас. войскамі і заставаўся ў іх руках да 1661. Вайна прычыніла А.п. моцнае спустошэнне. Да канца 17 ст. яе вынікі былі ў асн. пераадолены. З'явіліся новыя кляштары ў Дуброўне, Галоўчыне, Княжыцах, Оршы. Колькасць касцёлаў у межах А.п. да 1669 дасягнула 17. Да канца 17 ст. старыя магнацкія латыфундыі ў асн. распаліся, за выключэннем уладанняў Сапегаў, якія ахoплівалі Стары і Новы Быхаў з Тайманавам, Баркулабаў з Буйнічамі, частку Галоўчына, Беліцу, Бобр, Горы з Горкамі, Чарэю з Мялешкавічамі. Частка спадчыны князёў Галоўчынскіх (Галоўчын, Княжыцы) перайшла да Пацаў. Акрамя таго, мелася каля 150 шляхецкіх маёнткаў (буйнейшыя ўладальнікі — Баратынскія, Галімскія, Кміцічы, Падбярэскія, Халецкія і інш.) і вял. дзярж. воласці (староствы) — Барысаўскае, Любавіцкае, Любашанскае, Магілёўскае, Свіслацкае. У канцы 17—пач. 18 ст. А.п. зноў стаў арэнай ваен. дзеянняў, спачатку паміж магнацкімі групоўкамі Сапегаў і Агінскіх (1700), потым паміж войскамі шведскага караля Карла XII і цара Пятра I (1705—08). Адбыліся ўзбр. выступленні сялян у Дуброўне (1701) і Быхаве (1702). Сярод землеўладальнікаў А.п. ў 18 ст. па-ранейшаму дамінавалі Сапегі, у 2-й пал. 18 ст. значную маёмасць набылі князі Агінскія (Барысаўскае староства, Бобр, Бялынічы, Свіслач, Цяцерын). У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) большая частка А.п. (да р. Друць) адышла да Рас. імперыі. Астатняя частка працягвала называцца А.п. (цэнтр — Халопенічы), ён праіснаваў да 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793).

*Літ.*: Кудряшов В.Е. Оршанский повет Великого княжества Литовского в середине XVII в. // Проблемы археологии и древней истории Верхнего Поднепровья и соседних территорий. Могилев, 2002.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Аршанскі Пакроўскі манастыр.** Засн. ў 1758 у *Оршы* старастам пеліканскім Янам Ляпкоўскім як мужчынскі базыльянскі манастыр. Пасля заснавальнік уступіў у базыльянскі ордэн, прыняў імя Іосіф (Юзаф), стаў архіепіскапам смаленскім і пахаваны ў А.П.м. ў 1778. Манастыр збудаваны ў стылі позняга барока на паўн. ускраіне Оршы на правым беразе Аршыцы. Буд-ва царквы скончана ў 1774. Крыжовая ў плане 3-нефавая базіліка з трансептам і 2 вежамі на гал. фасадзе. Мела мураваныя алтары ў імя Пакрова Багародзіцы, Распяцця Гасподняга і велікамучаніка Васіля. Да царквы далучаўся мураваны Г-падобны ў плане 2-павярховы манастырскі корпус. З 1832 манастыр праваслаўны. У 1850-я г. над сяродкрыжжам пабудаваны высокі драўляны барабан з купалам. Царква разбурана ў 1969.

*Літ.*: Павловский А. Оршанский Покровский монастырь и приписной Богоявленский Кутеинский монастырь. Нижний Новгород, 1908; Купава М. Аршанская бажніца Апекі Маці Божай базыльянскага кляштара // Наша вера. 1999. № 3.

***Валерый Пазднякоў.***

**аршанскія гарадскія ўмацаванні**, комплекс абарончых збудаванняў *Оршы* ў 14—18 ст. У 14—пач. 15 ст. цэнтрам абароны горада з'яўляўся былы стараж. дзядзінец, што размяшчаўся ў сутоках Аршыцы з Дняпром. У 1-й пал. 14 ст. для расшырэння пляцоўкі дзядзінца яго валы былі скапаны, а па краі павялічанай пляцоўкі насыпаны новы земляны вал, пастаўлены драўляныя абарончыя сцены, вежы і ўязная брама. *Аршанскі замак* быў цэнтрам абароны горада. У пач. 16 ст. закончылася фарміраванне гандлёва-рамесніцкага пасада, які займаў участак, абмежаваны р. Дняпро і Аршыца на Пн і З ад замка. Для яго аховы ўтвораны новы пояс гар. абароны — «острог посадский», які складаўся з земляного вала і драўляных абарончых збудаванняў на ім — гародняў і вежаў. Уезд і выезд ажыццяўляўся праз 3 гар. брамы: Дняпроўскую, якая выводзіла да паромнай пераправы цераз Дняпро на яго левы бераг і далей на Горы і Мсціслаў; Магілёўскую, што адкрывала дарогу на мост цераз Аршыцу і далей па правым беразе Дняпра на Копысь, Друцк, Шклоў, Магілёў; Віцебскую, якая знаходзілася ў зах. частцы горада і адкрывала шлях на Віцебск, Полацк і ў Прыбалтыку. Перад валам з паўн. і зах. бакоў знаходзіўся абарончы роў, які выходзіў канцамі ў Дняпро і Аршыцу. Унутры горада і на подступах да яго, асабліва на падыходзе да мураванага замка, на скрыжаваннях гал. магістралей размяшчаліся мураваныя храмы, манастыры і кляштары. Яны былі дадатковымі пунктамі абароны Оршы. Пабудова, дагляд і рамонт А.г.у. былі абавязкам гараджан. Аднак стратэгічная важнасць горада прымушала ўлады накіроўваць у Оршу з вёсак і мястэчак Зах. Беларусі і Магілёўскага Падняпроўя дадатковую рабочую сілу. Паводле спец. «Уставы повинностей» 1594, дадзенай аршанцам Жыгімонтам III, усё дарослае мужчынскае насельніцтва аб'ядноўвалася ў ваенна-падатковыя падраздзяленні — 4 сотні на чале з сотнікамі. Дакладна рэгламентаваліся ваенныя абавязкі: «...вси и кождый засобна, для обороны в час небеспечности... от неприятеля господарского, стрельбу вшелякую, то есть гаковницы, ручницы и сагайдаки и иную оборону, то есть рогатину и што иного ку той обороне належить, у доме своих мети, а без обороны таковое в дому своим не мешкать». У прывілеі на магдэбургскае права 1620 яшчэ раз падкрэсліваліся абавязкі гараджан па абароне горада і дагляду за А.г.ў.: будаваць «острог также альбо вал около места и кгды того потреба укажеть под час небеспечности для обороны». У сувязі з пабудовай ратушы з замка перанеслі звон, у які званілі «под час великой небеспечности». У гар. арсенале знаходзіліся артылерыя, якую



абслугоўвалі пушкары на ўмовах валодання зямельнымі надзеламі. Паводле сведчанняў статутаў кравецкага, пастрыгацкага і кушнерскага рамесных цэхаў за 1612 і 1632, члены іх мелі ваенную амуніцыю, харугву і герб. За час існавання А.г.ў. зведалі шмат войнаў і аблог. Дакументы канца 18 ст. называюць вал, 3 гар. брамы, але яны сведчылі не столькі пра магутнасць тагачасных А.г.у., колькі пра сілу гіст. традыцый мясц. ваенна-інжынернага мастацтва.

*Міхась Ткачоў.*

**аршын** (цюрк.), мера даўжыні ад 0,652 да 1,12 м да ўвядзення метрычнай сістэмы ў Афганістане, Балгарыі, Іране, Турцыі і інш. У Расіі выкарыстоўваўся з пач. 16 ст. пры гандлі тканінай з усх. краінамі, адпавядаў локцю, з 1736—42 роўны 0,71119 м. У ВКЛ вядомы ў 16 ст., але шырока не ўжываўся.

*Яўген Анішчанка.*

**«Арыстоцелевы вароты»**, «Тайная тайных», павучальна-дыдактычны твор, помнік бел. перакладной літаратуры. Узнік у арабскай л-ры ў 8—9 ст., каля 13 ст. перакладзены на лац. мову, пасля на інш. Бел. пераклад зроблены з яўрэйскага спіса, відаць, у канцы 15—пач. 16 ст. Твор напісаны ў форме павучання, нібыта адрасаванага стараж.-грэчаскім філосафам Арыстоцелем славутаму палкаводцу Аляксандру Македонскаму. Кампазіцыйна складаецца з 8 частак, якія падзяляюцца на раздзелы («вароты»). Кожны раздзел прысвечаны якой-небудзь тэме — агульным нормам паводзін чалавека, адносінам палкаводца да сваіх падначаленых, апісанню спосабаў вядзення вайны, арганізацыі войска, прыёмам рацыянальнага харчавання, рэцэптам прыгатавання лякарстваў і г.д. Значнае месца адведзена фізіягноміцы — вучэнню пра вызначэнне характару і якасцей чалавека па рысах твару і форме цела. Адзіны вядомы бел. спіс твора 2-й пал. 16 ст. зберагаецца ў Нац. б-цы Беларусі. Вядомы некалькі рус. спісаў, якія паходзяць ад беларускага.

*Літ.*: Сперанский М. Из истории отреченных книг. IV. Аристотелевы врата или Тайная тайных. СПб., 1908; Jordan W.C. The «Aristotelevy vrata»: problems in reconstructing an ideology // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1980. H. 3.

**арыянскія школы**, навучальныя ўстановы прадстаўнікоў радыкальнага рэфармацыйнага руху на Беларусі, вядомых пад назвай арыяне (гл. *Арыянства*), *антытрынітарыі*, літоўскія браты, сацыніяне (гл. *Сацыніянства*). У 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. існавалі ў Іўі, Клецку, Любчы, Лоску, Нясвіжы, Навагародку і інш. гарадах і мястэчках ВКЛ. Мелі 3—5 класаў. На чале школы стаяў рэктар, ён жа выкладаў у старшым класе. Вучні, апрача багаслоўя, вывучалі творы стараж. філосафаў, гісторыкаў, паэтаў, польскую, беларускую, грэч., лац., старажытнаяўрэйскую мовы, цывільнае права і кодэкс Юсцініяна, логіку (па Арыстоцелю), рыторыку, этыку, музыку, медыцыну, арыфметыку, фізіку. У А.ш. існавала рэліг. верацярпімасць, тут вучыліся дзеці не толькі арыян, але і праваслаўных і католікаў. У вучняў выхоўвалі павагу да чалавека і яго розуму, вучылі самастойна мысліць. Найбольш вядомай была школа (акадэмія) у Іўі, заснаваная Я.С.Кішкам (гл. ў арт. *Кішкі*). У 1585—93 яе рэктарам быў педагог і мысліцель Я.Л.*Намыслоўскі*.

*Літ.*: Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII века. Казань, 1898; Łukaszewicz J. Historya szkół w Koronie i w W. Ks. Litewskiem... T. 1. Poznań, 1849.

*Сямён Падокшын.*

**арыянства**, рацыяналістычная плынь у хрысціянстве, якая ўзнікла ў пач. 4 ст. ва Усх. Рымскай імперыі. Пачатак А. паклаў александрыйскі прэсвітэр Арый (каля 256—336), які адмаўляў роўнасць Хрыста з Богам-бацькам. Сваё вучэнне Арый выкладаў у казаннях і маст. творах (некаторыя з іх захаваліся). Яго погляды падтрымлівала частка духавенства і гараджан, але большасць епіскапаў варожа паставілася да А., яно было асуджана Нікейскім саборам (325) як ерась. Імператары, баючыся ўзмацнення ўплыву епіскапаў, напачатку падтрымалі А., але ў канцы 4 ст. яны далучыліся да артадаксальнага хрысціянства. У 381 на саборы ў Канстанцінопалі А. асуджана канчаткова. Арыяне спазналі жорсткія ганенні і да канца 4 ст. іх амаль не засталося сярод грэка-рымскага насельніцтва імперыі. Яшчэ некалькі стагоддзяў А. пратрымалася сярод германскіх плямён, якія прынялі хрысціянства з Канстанцінопаля. У 16 ст. ідэі А. адрадзіліся ў асяроддзі радыкальных рэфармацыйных плыняў, у т.л. ў ВКЛ. Буйныя абшчыны арыян былі ў Іўі, Нясвіжы, Навагародку і інш. Гл. таксама *Антытрынітарыі*.

*Сямён Падокшын.*

**Арэст** (свецкае Костка Ануфрый Стафанавіч; ?—1850 або 1854), бел. летапісец. З сям'і святара. З 1791 вучыўся ў Магілёўскай семінарыі, у езуіцкіх навуч. установах. Валодаў грэч., лац., польск., рус., бел. мовамі. У 1801—04 настаўнік Невельскай духоўнай гімназіі. У 1802 пастрыжаны ў манахі, з 1803 святар. З 1806 скарбнік, потым аканом магілёўскага архірэйскага дома. У 1812 разам з архіепіскапам Варлаамам Шышацкім прысягнуў Напалеону. За гэта пазбаўлены рас. уладамі пасады. Кароткі час быў ігуменам Шклоўскага Васкрасенскага манастыра, пасля ў Мсціслаўскім Пустынскім Успенскім манастыры. У 1820—24 выкладаў у Полацку. З 1827 ігумен Магілёўскага брацкага манастыра. Напісаў там «Запіскі», якія асвятляюць гісторыю Магілёва з 14 ст. да сярэдзіны 19 ст. і з'яўляюцца апошняй па часе спробай стварэння бел. летапісу (паводле вызначэння М.М.Улашчыка). Як і сярэдневяковыя храністы, А. не назваў сваіх крыніц і не зрабіў іх крыніцазнаўчага аналізу. Большую частку даных ён запазычыў з *Магілёўскай хронікі* Сурты і Трубніцкага (паводле скарочанага спіса), а таксама скарыстаў дакументы з «Беларускага архіва старажытных грамат» І.І.*Грыгаровіча*, «Гістарычнай звесткі пра ўзнікненне ў Польшчы уніі» М.М.Бантыш-Каменскага, архіўныя матэрыялы магілёўскіх манастыроў і магістрата, уласныя назіранні. У «Запісках» шмат паведамленняў, якія паводле інш. крыніц невядомы, адсутнічаюць у Магілёўскай хроніцы ці яе дапаўняюць (напр., звесткі за 1672 аб атрыманні правасл. жыхарамі Магілёва прывілеяў на будаванне цэркваў і з'яўленні ў горадзе езуітаў). Невядомыя раней архіўныя матэрыялы скарыстаны А. пры апісанні *Магілёўскага паўстання 1661* (пералік усіх асоб, якія атрымалі пасля гэтых падзей шляхецтва) і інш. Рукапісы «Запісак» зберагаюцца ў Цэнтр. бібліятэцы АН Літвы і Рас. нац. бібліятэцы ў Пецярбургу (скарочаны спіс).

*Літ.*: Горючко П.С. К биографии игумена Ореста//Могилевская старина. Могилев, 1903. Вып. 3; Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 203—217; Магілёўская даўніна. Вып. 3. Магілёў, 1995.

*Ігар Марзалюк.*

**Асавіцкія**, княжацкі род. Мяркуецца, паходзілі з удзельных князёў смаленскіх. Князь Іван А., які згадваецца ў 1482, пасля

захопу ўсх. часткі Смаленскай зямлі Маскоўскай дзяржавай не пажадаў служыць вял. князю маскоўскаму Івану III і ад'ехаў да вял. князя ВКЛ Аляксандра. Атрымаў ад апошняга воласць Мікуліна ў Віцебскай зямлі. Меў сына Міхаіла (каля 1490—каля 1550), які ў 1526 атрымаў воласць Мікуліна і валодаў таксама маёнткам Пышна ў Полацкім ваяв. Паводле попісу 1528 кн. Міхаіл павінен быў ставіць у войска 7 конных воінаў. Памёр бяздзетным. Яго ўдава Аграфена, дачка кн. Андрэя Лукомскага, выйшла замуж за Сямёна Кміту. Пасля яе смерці Пышна ў 1555 атрымаў яе брат А.А.Лукомскі-Мялешкаўскі, а воласць Мікуліна перайшла да Рыгора Валовіча.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

***Вячаслаў Насевіч.***

**асада**, від феадальнай зямельнай рэнты ў грашовай форме, асн. павіннасць *асадных сялян* у ВКЛ у 16 ст. Узнікла з развіццём таварна-грашовых адносін. Паводле *«Уставы на валокі» 1557*, у велікакняжацкіх (гаспадарскіх) уладаннях складала 30 грошаў з валокі. У маёнтках інш. феадалаў памеры А. перавышалі гэту норму. У канцы 16 ст. А. паступова злілася з *чыншам*.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**асадныя сяляне**, адна з асноўных катэгорый феад.-залежных сялян у ВКЛ у 16 ст., галоўнай павіннасцю якіх была *асада*. Паводле *«Уставы на валокі» 1557*, яны, як і цяглыя сяляне, плацілі чынш, давалі дзякла і стацыю натурай або грашамі, адбывалі талокі і згоны. Вартасць усіх асн. павіннасцей А.с. складала 106 грошаў з валокі добрай зямлі і 66 грошаў з валокі вельмі дрэннай зямлі. А.с. пераважалі ў дзярж. уладаннях і складалі значную колькасць у маёнтках буйных феадалаў. З развіццём фальварка доля А.с. змяншалася. На У Беларусі, дзе фальваркаў было мала, А.с. складалі большасць сялянства.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Асветніцтва**, ідэйна-палітычны кірунак грамадскай думкі эпохі пераходу ад феадалізму да капіталізму, прадстаўнікі якога імкнуліся пераадолець недахопы існуючага грамадства, рэфармаваць яго сац. і дзярж. лад, палітыку, быт, норавы шляхам распаўсюджвання навук. ведаў, ідэй дабра, справядлівасці, гуманізму і г.д. Усталяванню А. спрыялі навук. адкрыцці ў прыродазнаўстве і дасягненні гуманітарных ведаў. У руках буржуазіі А. стала ідэйнай зброяй у барацьбе супраць феадалізму, абсалютызму, царкоўнага светапогляду, схаластыкі, цемрашальства.

У кожнай краіне, у кожнага народа А. мела свае асаблівасці і храналогію, адпаведныя ўзроўню сац.-эканам. развіцця грамадства і грамадскіх адносін. Найраней А. праявілася ў Галандыі, дзе ў 16 ст. перамагла першая ў свеце бурж. рэвалюцыя. У.Акоста, Г.Гроцый, Б.Спіноза (17 ст.) патрабавалі вызваліць навуку ад кантролю царквы. У Англіі пасля перамогі бурж. рэвалюцыі 17 ст. прадстаўнікі А. Дж.Лок і А.Сміт, даказваючы неабходнасць панавання прыватнай уласнасці, канкурэнцыі, аховы правоў і свабод чалавека, талерантнасці, паклалі пачатак бурж. лібералізму. Найвышэйшай ступені развіцця А. дасягнула ў Францыі, асабліва напярэдадні Вял. Франц. бурж. рэвалюцыі канца 18 ст. П.Бейль выступаў супраць феад.-царкоўнай ідэалогіі; Вальтэр, які стаў сімвалам еўрап. А., патрабаваў адмены саслоўных прывілеяў, ускладаў надзеі рэфармавання грамадства на асветнага манарха; Ж.Ж.Русо абгрунтаваў права народных мас на рэвалюцыю; П.А.Гольбах, Ж.А.Ламетры, Д.Дзідро, К.А.Гельвецый процівпаставілі рэлігіі і ідэалізму матэрыялізм і атэізм. У Германіі А. ва ўмовах эканам. і паліт. адсталасці краіны ў 2-й пал. 18 ст. (Г.Э.Лесінг, Ф.Шылер, І.В.Гётэ) выступіла з ідэяй аб'яднання Германіі. У ЗША А. (Б.Франклін, Т.Пейн, Т.Джэферсан) стала ідэалогіяй барацьбы за незалежнасць паўн.-амерыканскіх калоній ад метраполіі. У слав. краінах А. найб. яскрава выявілася ў Польшчы (Г.*Калантай*, С.Сташыц) і было накіравана супраць феад.-арыстакр. і каталіцкай рэакцыі, усеўладдзя магнатаў. У Чэхіі яно разгортвалася ва ўмовах нац.-вызв. барацьбы супраць аўстрыйскага абсалютызму. У Сербіі і Балгарыі было ідэалогіяй, якая садзейнічала аб'яднанню грамадства ў барацьбе супраць турэцкага панавання. У Расіі А. (М.Ламаносаў, Дз.Фанвізін, М.Навікоў, А.Радзішчаў) мела антыпрыгонніцкі і рэв.-дэмакр. характар. На Украіне А. звязана з дзейнасцю Р.Скаварады.

Распаўсюджванне ідэй А. ў ВКЛ пачалося ў 2-й пал. 18—пач. 19 ст. Асветніцкая ідэалогія фарміравалася тут на мясц. сац.-эканам. і тэарэт. аснове, разам з тым была цесна звязана з асветніцкай думкай краін Зах. Еўропы, Польшчы і Расіі. Ідэйныя вытокі А. ў ВКЛ бяруць пачатак ад філас. і грамадска-паліт. думкі эпохі *Адраджэння* і *Рэфармацыі*, а таксама прац і дзейнасці прагрэсіўных бел. мысліцеляў канца 17 — пач. 18 ст. К.*Лышчынскага*, *Сімяона Полацкага*, І.*Капіевіча*. Значны ўплыў на распаўсюджванне ідэй А. ў ВКЛ зрабілі творы франц. і ням. мысліцеляў 18 ст. Тут была шырока вядома «Энцыклапедыя, або Тлумачальны слоўнік навук, мастацтваў і рамёстваў», якая выдавалася пад рэдакцыяй Д'Аламбера і Дзідро ў 1751—80 у Парыжы, а таксама працы Ш.Л.Мантэск'ё, Вальтэра, Ф.Кенэ, А.Р.Ж.Цюрго і інш. як на мове арыгінала, так і ў перакладзе на польск. мову, а таксама творы Лесінга, І.Г.Гердэра, Г.*Форстэра* (апошні кароткі час працаваў праф. Віленскага ун-та). Для пашырэння ідэй А. шмат зрабіла *Адукацыйная камісія*. Яна ажыццявіла радыкальную рэформу школ ВКЛ, а таксама Віленскага ун-та ў духу перадавых ідэй асветнікаў 18 ст. Адукацыя набыла свецкі характар, выкладанне вызвалілася ад уплыву схаластыкі і тэалогіі, значная ўвага аддавалася вывучэнню прыродазнаўчых і фіз.-матэм. навук. Імкнучыся зрабіць свае ідэі здабыткам шырокіх дэмакр. слаёў грамадства, асветнікі звярталіся да сучаснікаў праз газеты і часопісы, якія пачалі з'яўляцца ў той час у ВКЛ, праз друкаваныя кнігі, якіх станавілася ўсё больш. Дзякуючы гэтаму ідэі А. набылі шырокае распаўсюджанне ў грамадстве, знайшлі глыбокае адлюстраванне ў філасофіі, грамадска-паліт. і пед. думцы, маст. л-ры.

Спецыфічнай рысай А. ў ВКЛ была яго арыентацыя на тэрміновае вырашэнне сял. праблемы. Асветнікі (М.*Карповіч*, Ю.К.*Багуслаўскі*, Д.*Пільхоўскі*) выступалі з рэзкай крытыкай феад.-прыгонніцкіх адносін, патрабавалі паляпшэння становішча прыгонных сялян. Сярод асветнікаў асаблівай папулярнасцю карыстаўся фізіякратызм, прыхільнікі якога (Г.*Страйноўскі*, І.*Храптовіч*, А.*Тызенгаўз*) выказвалі розныя праекты скасавання прыгонніцтва, даказвалі неабходнасць капіталістычнага (фермерскага) спосабу вядзення сельскай гаспадаркі, заснаванага на прыватнай уласнасці на зямлю і наёмнай працы. У працах Ю.Паўлікоўскага, І.*Яленскага*, Я.*Ясінскага* і інш. абгрунтоўвалася неабходнасць забяспечыць паліт. гаран-

тыі асобе селяніна, стварэння сістэмы навучання сял. дзяцей.

П.К.Бжастоўскі (гл. ў арт. *Бжастоўскія*) прапанаваў камуніст. праект абшчыннай роўнасці пры карыстанні зямлёй і атрыманні прадукту вытворчасці. У сваім маёнтку Мерач ён скасаваў прыгоннае права, дараваў сялянам асабістую вольнасць і перадаў кіраванне ўсімі справамі сял. абшчыне (гл. *Паўлаўская рэспубліка*).

Значнае гучанне ў творах асветнікаў 18 ст. набыла праблема *дысідэнтаў*, г.зн. веруючых, якія не належалі да каталіцкага веравызнання і ў сувязі з гэтым былі значна абмежаваныя ў паліт. правах. У прыватнасці, ім забаранялася займаць дзярж. пасады. Адным з самых паслядоўных абаронцаў правоў дысідэнтаў у Рэчы Паспалітай быў магілёўскі епіскап *Георгій* Каніскі. Яго праца ў абарону правоў дысідэнтаў была перакладзена на зах.-еўрап. мовы як узор талерантнасці.

Заканамерны працяг ідэалогія А. атрымала ў *Канстытуцыі 3 мая 1791* (сял. пытанне, ураўнаванне ў правах католікаў і некатолікаў) і паўстанні 1794 (*Паланецкі універсал*). Асветнікі (Міхал Клеафас *Агінскі*) прапанавалі таксама ідэю адраджэння бел. дзяржаўнасці, страчанай у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай.

Прысутнасць на тэр. Беларусі распушчанага ў 1773 ва ўсім свеце ордэна езуітаў, іх навуч. устаноў з цэнтрам у Полацку, прыдалі бел. А. вельмі моцны антыклерыкальны характар. Цэнтрам асветніцкіх ідэй у Беларусі быў Віленскі ун-т, а цэнтрам клерыкальнай думкі была Полацкая езуіцкая акадэмія. Існаванне на тэр. Беларусі двух процілеглых тэарэт. навуч. устаноў прывяло да таго, што паміж імі пастаянна вялася ідэйна-тэарэт. палеміка на старонках перыяд. выданняў, у якой удзельнічалі найб. вядомыя прадстаўнікі А. Асветніцкая ідэалогія зрабіла вял. ўплыў на фарміраванне перадавой нац. грамадскай думкі.

*Літ.*: Chmielowski P. Liberalizm i obskurantyzm na Litwie i Rusi (1815—1823). Warszawa, 1898; Баскин М.П. Философия немецкого просвещения. М., 1954; Волгин В.П. Развитие общественной мысли во Франции в XVIII веке. М., 1958; Осипова Е.В. Философия польского просвещения. М., 1961; Дорошевич Э.К. Философия эпохи просвещения в Белоруссии. Мн., 1971; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980; Шалькевіч В.Ф. Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі. Мн., 2002; Słownik literatury polskiego oświecenia. 3 wyd. 3. Wrocław; Warszawa; Kraków, 2002.

*Вячаслаў Шалькевіч.*

**Асіповічы** (цяпер горад, цэнтр Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), вёска ў Навагародскім ваяв., на левым беразе р. Сіняя (правы прыток Свіслачы). Верагодна, узніклі ў 18 ст. Упамінаюцца ў 1777 у тарыфе дымоў Слуцкай парафіі, 16 дымоў. Паводле рэвізіі Бабруйскага пав. Мінскай губ. 1793, уласнасць кн. Д.Радзівіла, у заставе ў Ратынскага; 83 мужч. душы, 71 жан. душа, карчма.

*Яўген Анішчанка.*

**Аскеркі**, Аскіркі, шляхецкі род герба «Мурдэліё» зменены (у чырвоным полі залаты маладзік рагамі ўніз, на ім залаты кавалерскі крыж, унізе — залатая 6-прамянёвая зорка; клейнод — 3 страусавыя пёры). Прозвішча ўтварылася ад назвы населенага пункта або імя заснавальніка роду, што даў назву с. Аскерць на р. Яжаль (басейн Улы). Паходзілі з полацкіх мяшчан. 1-ы вядомы прадстаўнік роду Аляксандр у 1458 судзіўся з Яўлашкам Козчычам з-за воз. Саланец. Яго нашчадак Нічыпар Аскерчыніч у 1511 разам з Козчычамі і Савай Мікіцінічам выкупіў свае землі ў с. Целічынічы, перададзеныя вял. князем ВКЛ Жыгімонтам Старым П.С.Эпімахавічу ў 1508. Фёдар, Грышка, Андрэй і Цішка Сцяпанавічы Аскярэнічы (Аткярэнічы, Акярэнічы) валодалі айчызным маёнткам на р. Ушача. У 16 ст. А. належалі ўжо да баярства. У час акупацыі Полаччыны войскам цара Івана IV Грознага А. атрымалі як кампенсацыю землі ў Мазырскім пав., дзе сталі ўплывовым родам. Пасля набылі маёнткі ў інш. паветах. Найб. вядомыя:

Самуэль (каля 1600—1673), сын Пятра. Мазырскі пісар земскі, войт з 1633, падсудак з 1638, суддзя земскі з 1653; пасол на сойм 1662, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1666. Удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18, Хацінскай бітве 1621, вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*, паходах Я.*Радзівіла* супраць казакоў у 1649 і 1651. Вызначыўся ў *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1654 як палкоўнік узначальваў некалькі харугваў паспалітага рушэння і наёмнікаў, вёў баі пад Быхавам, у зах. Беларусі. Выступаў супраць Кейданскай уніі 1655 са Швецыяй, ваяваў з яе прыхільнікам Б.*Радзівілам*. У 1658—59 ваяваў ва ўсх. Беларусі, у 1660 — на Палессі, у Навагародскім ваяв., каля Чарэі, у 1661 — супраць казакоў у паўд. Беларусі, у 1662 — супраць рас. войск каля Быхава і Чавусаў. У 1671 заснаваў кляштар бернардзінцаў у Слуцку.

Антоній (каля 1670—пасля 3.11.1734), сын Міхала, унук Самуэля. Мазырскі чашнік з 1697, маршалак з 1713, староста ў 1722—24, вял. пісар ВКЛ у 1724—26, кашталян навагародскі з 1726; пасол на соймы 1712, 1717, 1720, 1733, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1709—10. Быў прыхільнікам Радзівілаў, варагаваў з Сапегамі. З-за таго, што згодна са шлюбнай дамовай ахрысціў свайго сына Міхала Стафана паводле кальвінскага абраду, быў засуджаны да пазбаўлення пасад, маёнткаў і жыцця (прыгавор адменены пасля пераходу сына ў каталіцтва).

Гервазы Людвік (каля 1700—19.11.1771), сын Антонія. Мазырскі староста ў 1724—48?, адначасова войт з 1724, чашнік ВКЛ у 1748—64, рэферэндар ВКЛ з 1764, чл. Скарбовай камісіі ВКЛ; пасол на соймы 1724, 1733, 1740, 1746, 1760, 1766, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1737. Прыхільнік Чартарыйскіх. У 1764 пасол Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ у Пецярбург для забеспячэння рас. падтрымкі абрання на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

Рафал Алойзы (1708—да 4.6.1767), сын Антонія. Мазырскі харужы з 1725, падстолі з 1733 і маршалак з 1738; староста багрымавіцкі ў 1742—60; пасол на соймы 1748, 1754, 1764, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1756, 1760. Прыхільнік Чартарыйскіх. У 1764 маршалак канфедэрацыі мазырскай шляхты як аддзела Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ.

Міхал Стафан (1712—?), сын Антонія. Згодна з воляй маці быў ахрышчаны паводле кальвінскага абраду. З 1721 вучыўся ў Каралявецы і Берліне. Каб ураталаваць бацьку ад смяротнага прыгавора, перайшоў у каталіцтва. Пасля 1736 вярнуўся ў кальвінізм, выехаў у Прусію, набыў маёнтак каля Берліна і стаў дарадцам прускага караля Фрыдрыха II. Выдаў эканам. трактат «Неабавязковы план дзеля найхутчэйшага асваення пусткавых земляў у Брандэнбургскай марцы» («Unmaßgeblicher Plan wegen baldigen Besetzung derer wüsten contribuablen Hufen in der Chur Marck Brandenburg», Бернбург, 1762, бел. пер. Мн., 1995).

Багуслаў Леапольд (?—пасля 1795), сын Антонія. Харужы

мазырскі з 1765, стараста барыскавіцкі з 1768, пісар дэкрэтавы ВКЛ у 1793—95; пасол на сойм 1778.

Казімір Мацей (?—?), сын Антонія. Мазырскі маршалак, кашталян з 1793.

Марцін Тэадор (каля 1720—пасля 1796), сын Антонія. Стараста мядзельскі ў 1745—65, ашмянскі маршалак з 1765 і кашталян з 1793, чл. Скарбовай камісіі ВКЛ; пасол на соймы 1738, 1760, 1764, 1780. Прыхільнік Чартарыйскіх. У 1764 маршалак канфедэрацыі ашмянскай шляхты як аддзела Генеральнай канфедэрацыі ВКЛ.

Антоній Іахім (? — пасля 1792), сын Рафала Алойзы. Стараста багрымавіцкі з 1760, харужы пяцігорскі; пасол на соймы 1776, 1786, Чатырохгадовы сойм 1788—92 (з 1790), дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1762, 1790. Прыхільнік Канстытуцыі 3 мая 1791.

Ян Мікалай (22.12.1735—96), сын Рафала Алойзы. Мазырскі суддзя каптуровы ў 1764, пісар земскі з 1768, падстолі з 1769, войскі ў 1771—81, стражнік польны ВКЛ у 1782—89; пасол на соймы 1764, 1788, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1781. Удзельнічаў у Сямігадовай вайне 1756—63. Прыхільнік Канстытуцыі 3 мая 1791. У 1793 удзельнічаў у з'ездзе шляхты ў Хойніках пры падрыхтоўцы паўстання 1794. У крас. 1795 арыштаваны рас. уладамі, сасланы ў Сібір. Памёр у Табольску.

Рафал Міхал (пасля 1761—1818), сын Яна Мікалая. Стражнік польны ВКЛ з 1789. У 1792 уключаны ў склад Генеральнасці Таргавіцкай канфедэрацыі як прадстаўнік Мазырскага пав. У 1793 разам з бацькам удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання на Беларусі.

*Літ.*: Хорошкевич А.Л. Генеалогия мещан и мещанское землевладение в Полоцкой земле конца XIV — начала XVI в. // История и генеалогия: С.Б.Веселовский и проблемы историко-генеалогических исследований. М., 1977; Рыбчонак С., Свяжынскі У. Аскеркі гербу Мурдэліо зменены // Спадчына. 1999. № 4.

*Валерый Пазднякоў.*

**асмак**, асьмак, грашовая адзінка ў ВКЛ у сярэдзіне 16—пач. 18 ст. Уваходзіў у польскую манетную сістэму, што выкарыстоўвалася ў ВКЛ, складаў 1/8 частку скота (скоеца). Упершыню ў ВКЛ упамінаецца ў 1541 (Гародня). Да 1580 быў роўны сярэбранаму двайному пенязю (каля 0,634 г), або ¼ польскага гроша, да 1650 — шэлегу, або 3,5—4 пенязям (дэнарыям), або польскаму паўгрошу. У 1650—57 роўны польскаму грошу (каля 0,623 г), у 1657—88 — польскаму сярэбранаму шэлегу (солідy, каля 0,72 г). З канца 17 ст. А. — грашова-лікавая адзінка, назва магла ўжывацца ў дачыненні да прывазных іншаземных манет. Апошні раз упамінаецца ў 1711 (Магілёў).

*Літ.*: Гордеев М.Ю., Бектинеев Ш.И. «Осьмак» в денежных системах Великого княжества Литовского XVI—XVIII вв. // Наука и инновации. 2004. № 8.

*Шаміль Бекцінееў.*

**асочнікі**, сяляне-слугі ў ВКЛ у 14—18 ст., галоўным абавязкам якіх была ахова пушчаў вял. князя ці буйных феадалаў, падрыхтоўка палявання і ўдзел у ім. Жылі ў асобных вёсках ці на хутарах каля пушчаў, вызваляліся ад паншчыны і грашовых падаткаў, удзельнічалі ў ваен. паходах. Паводле *«Уставы на валокі» 1557* за службу атрымлівалі 2 валокі зямлі, якія не абкладаліся падаткамі. З развіццём фальваркаў эканам. становішча А. пагоршала, іх зямельныя надзелы паменшалі да 1—0,5 валокі. У 18 ст. А. пераводзілі на чынш, а за зямельны надзел яны павінны былі выплачваць дзякла, ахоўваць лясы, рамантаваць дарогі і масты ў пушчах, перавозіць пошту, вырабляць вугаль, дзёгаць, паташ і інш.

*Станіслаў Цярохін.*

**Асташынскі кальвінскі збор.** Існаваў у 16—1-й пал. 20 ст. ў с. Асташын Новагародскага пав. (цяпер в. Асташына Навагрудскага р-на). Узведзены на сродкі Яна Швыйкоўскага ў гатычна-рэнесансавым стылі. Гэта было мураванае 1-нефавае збудаванне, накрытае высокім клінаватым дахам, прамавугольнае ў плане, з У заканчвалася 3-граннай сцяной. Інтэр'ер асвятляўся праз 7 вокнаў паўцыркульнай формы. Да гал. фасада прымыкала шмат'ярусная чацверыковая вежа, завершаная 4-схільным шатром. 1-ы ярус у шырыню адпавядаў памерам асн. аб'ёму. З кожным ярусам памеры вежы памяншаліся, што надало знешняму абліччу дынамічную кампазіцыю. Унутраную прастору перакрывала паўцыліндрычнае скляпенне з распалубкамі. Знішчаны ў 1940-я г.

*Алесь Кушнярэвіч.*

**«Астоя»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася каля 250 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Кавячынскія, Слушкі, Уніхоўскія, Чаховічы, Чачоты. У чырвоным полі 2 залатыя маладзікі рагамі ў розныя бакі, паміж імі аголены сярэбраны меч. Клейнод — над прылбіцай з каронай 5 страусавых пёраў. Вядомы з сярэдзіны 14 ст.

*Валерый Пазднякоў.*



**Асташынскі кальвінскі збор.** Фота пач. 20 ст.



Герб **«Астоя»**.

**Астравец** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Астравецкага р-на Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв., на р. Лоша. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1468, калі Ю.Гаштольд зрабіў фундушавы запіс існуючыму ў А. касцёлу Дзевы Марыі і Усіх Святых. Відаць, ужо ў той час А. (мястэчка А. уваходзіла ў склад маёнтка А.) належаў М.Гаштольду. Пасля А. валодалі яго сын А.Гаштольд і ўнук С.Гаштольд. З 1542 уласнасць Жыгімонта I Старога, потым яго сына Жыгімонта II



Да арт. **Астравец**. Астравецкі Казьмадзям'янаўскі касцёл.

Аўгуста. У 1546 ён падараваў А. свайму дваранінy Я.Карыцкаму, які ў 1558 запісаў А. сваёй жонцы С.А.Хадкевіч. У 1582 яна прадала А. А.Клейнафу. У 1585—89 А. валодаў В.Дыбоўскі, у 1589—98 — М.Вольскі. У 1600 А.Гнаінская адрамантавала касцёл і запісала А. на свайго мужа ашмянскага земскага пісара Я.М.Корсака. У 1616 ён зрабіў фундушавы запіс (пацверджаны ў 1618) на будаўніцтва дамініканскага кляштара і касцёла Кузьмы і Дзям'яна. Пасля смерці бяздзетнага Я.М.Корсака А. адышоў да яго брата Р.К.Корсака, нашчадкі якога валодалі А. да 1784, калі А.І.Корсак прадаў А. братам А. і Я. Абрамовічам. У 1787 яны падзялілі маёнтак А. паміж сабой, мястэчка А. атрымаў А.Абрамовіч. У 1630 дамініканскі кляштар пацярпеў ад моцнага пажару. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* спустошаны рас. войскамі. У 18 ст. пры кляштары існаваў шпіталь. У 1775 на 13 местачковых валоках зямлі размяшчалася 21 гаспадарка (сям'я). У 1785 пачалося буд-ва новага каменнага касцёла і кляштара дамініканцаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Герман Брэгер.***

**Астрог** (укр. Острог, цяпер горад, цэнтр Астрожскага р-на Ровенскай вобл., Украіна), горад у Луцкім пав., на р. Вілія (прыток Гарыні). Упершыню ўпамінаецца ў 1100. З 1199 у *Галіцка-Валынскім княстве*. З 1340-х г. у складзе ВКЛ. У 14—17 ст. уласнасць князёў *Астрожскіх*, якія ў 14 ст. пачалі будаваць *Астрожскі замак*. У 1421 пабудавана замкавая *Астрожская Богаяўленская царква*. 29.7.1528 атрымаў магдэбургскае права. У 16 ст. дзейнічала сінагога. З 1540 у А. па запрашэнні I.Астрожскага знаходзіліся дамініканцы, дзейнічаў касцёл. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1570-х г. заснаваны *Астрожская школа* і *Астрожская друкарня*. У 1604 вял. пажар знішчыў горад. У 1624 Г.А.Хадкевіч заснавала ў А. езуіцкі калегіум, дзе былі класы граматыкі, рыторыкі, паэтыкі і філасофіі, бурса для збяднелай валынскай шляхты, музычная бурса, б-ка, аптэка. У 1636 правасл. прыходы А. прынялі унію. З 17 ст. ў А. знаходзіліся кармеліты абутыя, з сярэдзіны 18 ст. — капуцыны. У 1648 А. захоплены атрадамі Б.Хмяльніцкага, у 1655 — рас. ваяводамі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Перлштейн А. Описание города Острога. М., 1847; Kardaszewicz S. Dzieje dawniejsze miasta Ostroga. Warszawa; Kraków, 1913; Острозька давнина: Документи і матеріали. Вип. 1. Львів, 1995.

***Валерый Грынявецкі.***

**Астрожская Богаяўленская царква**. Узведзена ў сярэдзіне 15 ст. ў паўн. частцы *Астрожскага замка*. У 1521—39 прыстасавана да абароны. Ад часоў пераходу прадстаўнікоў роду *Астрожскіх* у каталіцтва (17 ст.) і да 2-й пал. 19 ст. А.Б.ц. знаходзілася ў запусценні. У 1883 быў зацверджаны праект перабудовы арх. В.Токарава. У час падрыхтоўчых работ разабралі да падмурка рэшткі стараж. сцен храма за выключэннем паўночнай. На яго месцы ўзвялі новую царкву, якая ў асноўным паўтарае аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю папярэдняга помніка — квадратнага ў плане, трохнефавага чатырохслуповага пяцікупальнага з 3 паўкруглымі апсідамі. У верхнім сячэнні мае форму роўнаканцовага грэч. крыжа. Яго рамёны перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, якія адлюстраваны на фасадах закамарамі з кілепадобным завяршэннем. Асн. аздоба закамар — паўцыркульныя нішы, акцэнтаваныя некалькімі радамі прафіляванай цэглы. Сярэднія нішы прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Аналагічнай



**Астрог**. Руіны езуіцкага касцёла і калегіума. Гравюра з малюнка Н.Орды.

формы нішы ўпрыгожваюць п'едэсталы барабанаў, якія ў кожным асобным варыянце вянчае купалок са шлемападобным пакрыццём. Першапачаткова храм меў пазакамарнае пакрыцце, замененае пазней (да 1636) на 4-схільны дах. Сцены гал. і паўд. фасадаў умацоўваюць шматступеньчатыя контрфорсы. Паміж контрфорсамі паўд. фасада размешчаны стральчатыя аконныя праёмы. Цэнтр. праслы гал. і паўд. фасадаў прарэзаны стральчатымі дзвярнымі праёмамі. Прафілёўка парталаў выканана з блокаў вапняку, які выкарыстаны таксама ў пераплётах і адхонах вокнаў спічастай формы. Гал. партал мае кілепадобную форму завяршэння. Першапачаткова ў аздобе падлогі храма былі выкарыстаны зялёныя паліваныя пліткі квадратнай формы. Помнік — сінтэз візантыйска-рускай і гатычнай архітэктуры.



**Астрожская Богаяўленская царква**.

*Літ.*: Łuszńzkiewicz W. Ruina Bohojaulenskiej Cerkwi w zamku Ostrogskim na Wołyniu// Sprawozdanie Komisji historii sztuki. Kraków, 1883. Т. 4; Годованюк Е.М. Два храма XV в. на Волыни // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27; Я е ж. Пам'ятки будівельної діяльності князів Острозьких в Острозі // Острозька давнина: Дослідження і матеріали. Львів, 1995; Jurczenko S. Niektóre osobliwości ewolucji przestrzeni wołyńskich cerkwi z XVI w. // Kwartalnik architektury i urbanistyki. 1998. Z. 4.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Астрожская друкарня.** Засн. каля 1578 *І.Фёдаравым* у г. *Астрог* князя К.К.*Астрожскага* і на яго сродкі. Звязана з дзейнасцю культ.-асветніцкага гуртка, мецэнатам якога быў князь. Пры Фёдараве тут выдадзены «Азбука» (1578; у параўнанні з «Азбукай», надрукаванай Фёдаравым у Львове ў 1574, мела дадатак — грэчаскі алфавіт і грэка-слав. тэксты, таксама «Сказанне» чарнарызца Храбра), «Псалтыр і Новы запавет» і алфавітна-прадметны паказальнік да яго «Кнігазбор рэчаў самых патрэбных» (1580), а таксама першая поўная слав. Біблія кірылічнага шрыфту, т.зв. Астрожская Біблія, лістоўка «Храналогія» А.Рымшы (1581). Выдаўцы перанялі вопыт работы Ф.Скарыны, што прасочваецца і ў змесце, і аздабленні кніг. Значную ролю ў дзейнасці А.д. адыграў Грынь *Івановіч*, які ўдзельнічаў у аздабленні ўсіх выданняў. Пасля ад'езду Фёдарава (1581) у працы А.д. настаў перапынак да 1594. А.д. дзейнічала да 1612, выпусціла 28 кніг, сярод якіх навуч. дапаможнікі, богаслужэбныя і палемічныя творы, у т.л. «Кніга пра пост» з павучаннямі Васіля Вялікага (1594), «Маргарыт» — збор казанняў Іаана Златавуста (1595).

*Літ.*: Немировский Е.Л. Начало книгопечатания на Украине: Иван Федоров. М., 1974; Исаевич Я.Д. Острожская типография и ее роль в межславянских культурных связях: (Послефедоровский период) // Федоровские чтения. 1978. М., 1981.

***Марат Батвіннік.***



**Астрожская друкарня**. Тытульны ліст Астрожскай Біблії. 1581.

**Астрожская школа**. Засн. ў 1576 у г. *Астрог* князем К.К.*Астрожскім*. Сучаснікі называлі яе Астрожскай акадэміяй, Астрожскай грэчаскай школай, Астрожскай рускай школай, ліцэем. Была значным асветніцкім цэнтрам антыкаталіцкага кірунку. Структура і праграма школы невядомыя. Відаць, мела характар сярэдняй навуч. установы, дзе ўпор рабіўся на граматыку і філалогію. Выкладаліся грэчаская, лацінская, «руская» мовы, магчыма, арыфметыка і музыка. Першапачатковы штат школы быў сфарміраваны з высокаадукаваных філолагаў, запрошаных у Астрог для выдання царкоўнаславянскай Біблії. Першым рэктарам школы лічыцца Г.Д.Сматрыцкі (бацька М.*Сматрыцкага*). Выкладалі таксама Ц.М.Аніч, Яўстафій Нафанаіл з Крыта, «Клірык Астрожскі» і інш., якія складалі навукова-літаратурны гурток і друкавалі свае творы ў *Астрожскай друкарні*. Для А.ш. ў 1578 І.*Фёдараў* выдаў азбуку. У школе вучыліся М.Сматрыцкі, гетман П.Канашэвіч-Сагайдачны. Дзейнічала да 1636.

*Літ.*: Харлампович К.В. Острожская православная школа: Историко-критический очерк // Киевская старина. 1897. № 5—6; Острозька Академія XVI—XVII ст.: Енциклопедичне видання. Острог, 1997; Мицько І.З. Острозька слов'яно-греко-латинська академія (1576—1636). Київ, 1990; Матеріали до історії Острозької академії (1576—1636): Біобібліографічний довідник. Київ, 1990.

***Валерый Пазднякоў.***

**Астрожскі** Канстанцін Іванавіч (каля 1460—паміж 15 і 25.8.1530), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Астрожскіх*. Найвышэйшы гетман ВКЛ у 1497—1500 і з 1507, адначасова маршалак Валынскай зямлі ў 1507—22, кашталян віленскі ў 1511—22, ваявода троцкі з 1522; стараста брацлаўскі ў 1497—1500 і з 1507, вінніцкі ў 1497—1500 і з 1507, луцкі з 1507. Верагодна, у 1486—90 удзельнічаў у адбіцці татарскіх нападаў, у *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94*. У 1496 абараняў Роўна ад татараў, у 1497 адбіваў татарскі напад на Валынь, у час чарнаморскага паходу караля Польшчы Яна Ольбрахта разбіў каля Ачакава войска хана Махмет-Гірэя. За атрыманыя перамогі ў канцы 1497

прызначаны найвышэйшым гетманам ВКЛ. У пачатку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* узначаліў войска ВКЛ, якое рушыла да г. Дарагабуж, пацярпеў паражэнне ў *бітве на Вядрошы 1500* і трапіў у палон. На прапанову перайсці на маскоўскую службу ў 1506 прысягнуў вял. князю маскоўскаму, аднак атрыманую свабоду выкарыстаў для ўцёкаў і ў вер. 1507 прыбыў у Вільню. Змагаўся супраць *Глінскіх мяцяжу 1508*, у 1508—12 — супраць татарскіх нападаў, атрымаў перамогу ў *Вішнявецкай бітве 1512*. У *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* разбіў каля Оршы рус. корпус (восень 1513),



К.К.**Астрожскі**.
Партрэт 18 ст. з арыгінала канца 16 ст.

атрымаў перамогу ў *Аршанскай бітве 1514*. У 1517 ваяваў на Пскоўшчыне. Вясной 1518 пасол ад паноў-рады ВКЛ у Польшчу. 2.18.1519 разбіты татарамі пад Сакалем, летам 1524 адбіваў іх напад на паўд. землі ВКЛ, атрымаў перамогу ў *бітве на Альшаніцы 1527*. Паліт. праціўнік канцлера ВКЛ А.*Гаштольда*. Карыстаўся вял. аўтарытэтам у вял. князёў ВКЛ Аляксандра і Жыгімонта Старога, дзякуючы чаму стаў першым у ВКЛ праваслаўным, які заняў прызначаныя для католікаў пасады кашталяна віленскага і ваяводы троцкага. Быў гал. апекуном правасл. царквы ВКЛ. У 1507 атрымаў ад Жыгімонта Старога ў кіраванне Жыдычынскі манастыр на Валыні. Дзякуючы А. фак-



Герб К.К.**Астрожскага**
з «Азбукі» І.Фёдарава.
Астрог. 1578.

тычна была адменена забарона на пабудову правасл. цэркваў у дзярж. уладаннях ВКЛ. У 1511 атрымаў дазвол на перабудову *Віленскага Прачысценскага сабора*, у 1514 — на пабудову ў Вільні цэркваў Св. Тройцы і св. Мікалая (Перанясенскай) у гонар бітвы пад Оршай, пабудаваў цэрквы ў Дубне (1492), Смалявічах (каля 1520). Рабіў падараванні цэрквам Вільні, Навагародка, Турава, Дзярманскаму і Межырэцкаму манастырам, Кіева-Пячэрскаму манастыру. У 1511 дамогся ад Жыгімонта Старога пацвярджэння правасл. царкве ВКЛ права на незалежны суд і забароны свецкім асобам прызначаць на царк. пасады. Кіраваў маёнткамі Кіеўскай мітраполіі пасля смерці мітрапаліта Іосіфа II Солтана (1521). Валодаў вял. зямельнымі маёнткамі на Валыні (Астрог і інш.), атрымаў ад вял. князя Дубну, Красілаў, Здзецел (Дзятлава, 1498), Тураў (1508), Балажэвічы, Шастовічы і Капцэвічы ў Мазырскім пав. (1512), Дарагабуж на Валыні (1514), Смаляны (1522), Копысь і інш. Як пасаг атрымаў ад жонкі частку Гальшан і Глуска, Смалявічы і Жыцін на Меншчыне, Шашолы і Свіраны ў Літве, як спадчыну — Славенск каля Ашмян, Лемніцу і Палонну каля Оршы, купіў Тарасаў каля Менска (1516), Азяраны і воз. Свіцязь (1516), Нізгалаў і Сушу на Полаччыне (1526). У 1528 выстаўляў у войска са сваіх маёнткаў 426 коннікаў. У шлюбе з Таццянай Ганнай, дачкой кн. С.Ю.Гальшанскага, меў сына Ілью, у шлюбе з Аляксандрай, дачкой кн. С.М.Алелькавіча — сына Васіля [Канстанціна, гл. К.(В.). К.*Астрожскі*] і дачку Соф'ю. Сучаснікі высока цанілі А. як палкаводца, пасля смерці называлі яго «другім Ганібалам» (М.Стрыйкоўскі), «рускім Сцыпіёнам», сцвярджалі, што выйграў 64 бітвы. Пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры.

*Літ.*: Ярушевич А. Ревнитель православия, князь Константин Иванович Острожский (1461—1530) и православная церковная Русь в его время. Смоленск, 1896; Charkiewicz W. «Scypjon ruski» Konstanty Iwanowicz książę Ostrogski, wielki hetman litewski, wojewoda trocki, kasztelan wileński, marszałek ziemi wołyńskiej, starosta łucki, brasławski, winnicki etc. etc. Wilno, 1934; Сагановіч Г.М. Айчыну сваю баронячы: Канстанцін Астрожскі. Мн., 1992; Kempa T. Działalność hetmana Konstantego Iwanowicza Ostrogskiego na polu prawosławia // Białoruskie zeszyty historyczne. 1999. Z. 12; Грыцкевіч А. Канстанцін Іванавіч Астрожскі (каля 1460—1530) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**Астрожскі** Канстанцін (Васіль) Канстанцінавіч (каля 1524, г. Дубна—23.2.1608), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. З роду князёў *Астрожскіх*, сын К.І.*Астрожскага*. Першапачаткова карыстаўся імем Васіль, пасля — Канстанцін (відаць, у гонар бацькі). Маршалак Валынскай зямлі з 1550, адначасова ваявода кіеўскі з 1559; стараста ўладзімірскі ў 1550—80 і з 1588. Выхоўваўся пад апекай маці ў Тураве. У 1543—44 удзельнічаў у баях з татарамі, у 1559 адбіваў напад на Валынь кн. Дз.І.Вішнявецкага з казакамі. Выступаў супраць заключэння *Люблінскай уніі 1569*, пасля пагадзіўся з ёй. Абараняў паўд. землі ВКЛ ад татараў у 1574—75, 1577—78. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* прымаў удзел у 1579 у паходзе на чарнігаўскія і ноўгарад-северскія землі. Удзельнічаў у задушэнні казацкага паўстання К.Касінскага 1591—93 і *Налівайкі паўстання 1595—96*. У 1570-я г. заснаваў *Астрожскую школу* і *Астрожскую друкарню*. Быў гал. апекуном правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай. Па яго ініцыятыве былі прызначаны епіскапы луцкі К.*Цярлецкі* і ўладзімірска-берасцейскі І.*Пацей* (пазнейшыя прыхільнікі царк. уніі). Падтрымліваў праект уніі каталіцкай і правасл. цэркваў на раўнапраўных умовах. Асудзіў план уніі, які праводзіўся Пацеем і Цярлецкім, і, каб сарваць яго, заключыў саюз з пратэстантамі. Не прыняў *Берасцейскую унію 1596* і вёў з ёю барацьбу. У 1597 александ-

рыйскі патрыярх Мялецій Пігас прызначыў А. адным са сваіх экзархаў для аднаўлення правасл. іерархіі ў Рэчы Паспалітай. Па заказу А. валынскі пратэстант М. *Бранеўскі* пад псеўданімам Хрыстафор Філалет напісаў антыуніяцкую кн. «Апакрысіс» (1597). У знешняй палітыцы А. быў прыхільнікам заключэння антытурэцкай лігі і падтрымліваў у гэтым намаганні германскага імператара. Выступаў супраць падтрымкі Лжэдзмітрыя I. Валодаў вял. маёнткамі на Валыні (Астрог, Сураж, Дубна, Сцепань, Дарагабуж, Роўна, Звягіль і інш.), у Кіеўскім, Рускім (Цярнопаль), Віленскім ваяв., у Польшчы (Тарнаў). У Новагародскім ваяв. меў Азяраны і воз. Свіцязь (прадаў іх у 1571), Здзецел (Дзятлава) і Глуск, у Менскім ваяв. — Тарасава. Пахаваны ў Астрожскай Богаяўленскай царкве. У шлюбе з Зоф'яй, дачкой кракаўскага ваяводы Яна Тарноўскага, меў сыноў Януша, Канстанціна і Аляксандра, дачок Лізавету і Кацярыну.

*Літ.*: Зноско П.К. Князь Константин Острожский. Варшава, 1933; Кетра Т. Konstanty Wasyl Ostrogski (ok. 1524/1525—1608), wojewoda kijowski i marszałek ziemi wołyńskiej. Toruń, 1997; Вестник Белорусского Экзархата. Т. 1. Благоверный князь Острожский: Сб. статей участников Шестых Минских Епархиальных научно-богословских Чтений, посвященных 390-летию памяти князя К.К.Острожского. Мн., 1998; Журко О. Князь Костянтин-Василь Острозький в історичній думці // Осягнення історії. Острог; Нью-Йорк, 1999.

***Валерый Пазднякоў.***

**Астрожскі замак**, комплекс абарончых збудаванняў 14—16 ст. у г. *Астрог*, рэзідэнцыя князёў *Астрожскіх*. Замак пабудаваны на адносна невял. авальнай пляцоўцы (0,7 га) на вяршыні пагорка, вядомага пад назваю Замкавай (або Судовай) гары, вышыня якой дасягае 20 м (з Пн і З аддзелена ад горада глыбокімі равамі, створанымі на аснове ранейшых яроў). Археал. даследаванні паказваюць, што першапачатковa ў 11—12 ст. на пагорку існаваў дзядзінец стараж. Астрога (упамінаецца ў летапісах пад 1100), знішчаны ў час мангольскага нападу ў 1241. Аднаўленнем фартыфікацыйных збудаванняў Астрога заняўся першы гістарычна вядомы князь з роду Астрожскіх Данііл. Мяркуецца, што менавіта пры ім на паўд.-ўсх. рагу Замкавай гары пачалося буд-ва вежы-данжона, вядомай у пазнейшых крыніцах пад назваю Мураваная. Захаваліся 2 ніжнія ярусы вежы (адносна ўзроўню пляцоўкі — падземныя) з гатычнымі скляпеннямі. У ніжэйшым ярусе выкапаны глыбокі калодзеж. Верхняя частка вежы моцна перабудавана ў 19—пач. 20 ст. і прыстасавана пад музей і бібліятэку; умацавана трывалымі контрфорсамі. У абарончую сістэму замка ўваходзіла таксама *Астрожская Богаяўленская царква*, узведзеная ў паўн. частцы замка. Пазней за іншыя аб'екты ў паўд.-зах. частцы замка была пастаўлена мураваная Новая вежа, вядомая таксама пад назваю Круглая. Верхні ярус вежы мае выразнае рэнесансавае вырашэнне з атыкам, таму вежа традыцыйна датуецца 2-й пал. 16 ст. Даследаванні паказваюць, што ніжні ярус Новай вежы мог быць закладзены ў сярэдзіне 15 ст. Паводле інвентара 1603 княжацкі палац на тэрыторыі замка быў драўляны, як і некат. фартыфікацыйныя збудаванні. Спалучэнне мураваных і драўляных умацаванняў — асаблівасць А.з. Сёння рэшткі замка з'яўляюцца часткаю Астрожскага дзярж. гіст.-культ. запаведніка.



**Астрожскі замак**.
Круглая вежа.

***Алег Дзярновіч.***



Герб князёў
**Астрожскіх**.

**Астрожскія**, княжацкі род уласнага герба. Паходжанне не высветлена. Гісторыкі выводзяць іх ад турава-пінскіх або галіцка-валынскіх Рурыкавічаў, Гедзімінавічаў. Першы вядомы з роду А. — кн. Даніла, уладальнік г. *Астрог* на Валыні ў сярэдзіне 14 ст. (адсюль прозвішча). У 15—16 ст. шляхам вялікакняжацкіх падараванняў і заключэння выгадных шлюбаў сабралі вялізныя зямельныя ўладанні на Украіне (каля палловы Валынскага ваяв. і інш.), мелі маёнткі ў Беларусі, Літве і Польшчы. Галіна А. — князі *Заслаўскія*, да якіх пасля згасання ў 17 ст. роду А. перайшлі іх асн. маёнткі. Найб. вядомыя:

Даніла (?—пасля 1340). У 1340, калі польскі кароль Казімір III намагаўся захапіць Галіччыну, узначаліў разам з ваяводам Дзедкам рух супраціўлення, паклікаўшы на дапамогу татараў.

Фёдар Данілавіч (?—да 1410), сын Данілы. Атрымаў пасля бацькі Астрог і ваколічныя населеныя пункты. Прыхільнік Ягайлы. У 1386 або 1387, пасля таго як кн. Фёдар Любартавіч быў пазбаўлены Луцка, атрымаў ад Ягайлы пасаду луцкага старасты і прысягнуў яму на вернасць. У 1386 Ягайла і Вітаўт пацвердзілі Фёдару правы на Астрог, Корац, Заслаў, Хлапоцін і інш. У 1390 удзельнічаў у абароне Вільні ад войск Вітаўта і крыжакоў. Заснаваў Астрожскі кляштар дамініканцаў, перадаўшы яму царкву Багародзіцы. Перад смерцю прыняў манаства з імем Феадосій, пахаваны ў Кіева-Пячэрскай лаўры. У 17 ст. кананізаваны кіеўскім мітрапалітам Пятром Магілам.

Ф ё д а р (Фрыдрых; ?—пасля 1438), сын Фёдара Данілавіча. У 1422 удзельнічаў у паходзе кн. Жыгімонта Карыбутавіча на дапамогу чэшскім гусітам. Асеў у Чэхіі і прыняў гусізм, удзельнічаў у шматлікіх бітвах.

В а с і л ь  Ф ё д а р а в і ч (да 1410—да 20.8.1450), сын Фёдара Данілавіча. З 1428 быў жанаты з Ганнай (Агаф'яй), роднай Вітаўта, таму карыстаўся падтрымкай вял. князя. У 1442 па просьбе вял. кн. Казіміра перадаў яму г. Корац. Ад Казіміра атрымаў вёскі ў Луцкай зямлі, Асташын каля Навагародка (1446). З 1448 намеснік тураўскі. Меў сыноў Івана (?—пасля 1465) і Юрыя — заснавальніка роду Заслаўскіх.

І в а н  В а с і л е в і ч (?—пасля 1466), сын Васіля Фёдаравіча. Верагодна, у 1453 удзельнічаў у разгроме татараў каля Цырабоўля. Быў у шлюбе з дачкой кн. І.У.Бельскага, меў сыноў Міхаіла, Канстанціна і дачку Марыю (жонка кн. А.А.Сангушкі).

М і х а і л  І в а н а в і ч (?—1501), сын Івана Васілевіча. Староста луцкі і маршалак Валынскай зямлі з 1500. Відаць, удзельнічаў у *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94*. У 1497 разбіў татараў каля Палонны на Валыні.

К а н с т а н ц і н  І в а н а в і ч (каля 1460—1530), сын Івана Васілевіча. Гл. *Астрожскі* К.І.

І л ь я  К а н с т а н ц і н а в і ч (канец 1510—19.8.1539), сын Канстанціна Іванавіча. Староста брацлаўскі і вінніцкі з 1530. Уладальнік Астрога і інш. маёнткаў (у т.л. Здзецел) пасля смерці бацькі. У 1530, 1531 і 1533 адбіваў татарскія напады на Валынь. У 1534—36 з уласным атрадам удзельнічаў у *вайне Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37*. Пасол у Маскву ў 1537. У 1539 ажаніўся з Беатай, дачкой кароннага падскарбія і вайніцкага кашталяна А.Касцялецкага, да якой пасля смерці Ільі перайшоў Астрог.

К а н с т а н ц і н  (В а с і л ь)  К а н с т а н ц і н а в і ч (каля 1524—1608), сын Канстанціна Іванавіча. Гл. *Астрожскі* К.(В.)І.

Я н у ш  К а н с т а н ц і н а в і ч (каля 1554—12 або 13.9.1620), сын Канстанціна (Васіля) Канстанцінавіча. Ваявода валынскі ў 1584—93, кашталян кракаўскі з 1593; староста багуслаўскі з 1591, белацаркоўскі з 1592, чаркаскі і канеўскі з 1594, пераяслаўскі з 1604 (уведзены ў трыманне ў 1618). Валодаў г. Дубна, які бараніў ад татараў у 1577, і інш. маёнткамі на Украіне, г. Тарнаў у Польшчы і інш. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* удзельнічаў у паходзе 1579 на чарнігаўскія і ноўгарад-северскія землі. У сярэдзіне 1570-х г. перайшоў у каталіцтва. Выступаў супраць падтрымкі Лжэдзмітрыя І і *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. Апошні з роду А. па мужчынскай лініі.

К а н с т а н ц і н  К а н с т а н ц і н а в і ч (каля 1560—да 10.5.1588), сын Канстанціна (Васіля) Канстанцінавіча. Крайчы ВКЛ у 1580—88, падчашы ў 1588; староста ўладзімірскі з 1580, пасол на элекцыйны сойм 1587. У 1583 перайшоў у каталіцтва.

А л я к с а н д р  К а н с т а н ц і н а в і ч (1570, в. Вявёрка каля Тарнава, Польшча—12.12.1603), сын Канстанціна (Васіля) Канстанцінавіча. Ваявода валынскі з 1593, староста пераяслаўскі з 1594. Разам з бацькам супрацьдзейнічаў правядзенню царк. уніі, удзельнічаў у правасл. саборы 1596 у Берасці, саборы праваслаўных і пратэстантаў 1599 у Вільні. Валодаў гарадамі Ратна (прыкладана з 1590), Дарагабуж, Сураж, Звягель, паловай г. Астрог (усе з 1603). Быў жанаты з каталічкай Ганнай Косткай, уладальніцай г. Яраслаў у Рускім ваяв., дзе збудаваў палац.

Г а н н а  А л а і з а (25.3.1600—27.1.1654), дачка Аляксандра Канстанцінавіча. Жонка гетмана Я.К.Хадкевіча з 1620, удава з 1621. Пад уплывам езуітаў насаджала ў сваіх уладаннях каталіцтва, заснавала езуіцкі калегіум у Яраславе, адабрала цэрквы ў праваслаўных у Тураве. Апошняя з роду А.

*Літ.*: Genealogia domu Ostrogskich. Wilno, 1871; Л е в и ц к и й  О. Анна-Алоиза, княжна Острожская // Киевская старина. 1883. № 11; В л а с ь е в  Г.А. Князья Острожские и Друцкие// Известия Русского генеалогического общества. СПб., 1911. Вып. 4; Б ы к о в  Н.П. Князья Острожские и Волынь. Пг., 1915; L e w i c k i  K. Ks. Ostrogscy na służbie Rzeczypospolitej//Rocznik Wołyński. 1938. T. 7; К у л а к о в с ь к и й  П. Князь Януш Острозький і поунійна релігійна боротьба // Осягнення історії. Острог; Нью-Йорк, 1999; С о б о л е в  Л.В. Генеалогическая легенда рода князей Острожских // Славяноведение. 2001. № 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Астроўскі** Марцін, жывапісец 16 ст. Паходзіў з г. Бохня, жыў у Кракаве. Прыдворны мастак караля Польшчы і вял. князя ВКЛ Жыгімонта ІІ Аўгуста. Разам з работнікамі яго майстэрні Войцехам Хелменскім з Іныўроцлава, Станіславам Радкам з Познані і Янам Гадэ з Рэгенсбурга ў 1554 накіраваны для выканання жывапісных работ у Віленскім Ніжнім замку.

**Астроўскі** (Ostrowski) Ян (10.1.1611, Парціцы Вялюнскага пав., Польшча—15.3.1644), кальвінісцкі рэліг. дзеяч. У ВКЛ з 1630, дыякан і настаўнік катэхізіса ў Кейданах, з 1632 памочнік сеньёра Падляшскага дыстрыкта М.Высокага ў Сяльцы каля Бярэсця. У 1633—34 катэхіст на двары Я.Радзівіла. Пасля выехаў на вучобу ў Лейдэн і Лондан. З 1637 прапаведнік і выкладчык у Кейданскай школе, у 1640—41 прапаведнік на двары дачкі К.Радзівіла Кацярыны, жонкі Ю.М.Глябовіча. З 1641 прапаведнік у Венграве і з 1642 кансеньёр Падляшскага дыстрыкта. Аўтар кн. «Абарона евангелічнай нявіннасці супраць няслушнага панаўлення ерасі…» («Obrona niewinności ewangielickiej przeciw niesłusznej heretyctwa ponowie…», 1640), казання на пахаванне К.Радзівіла (Любча, 1641).

***Валерый Пазднякоў.***

**Астрынскія**, род татарскіх царэвічаў, адгалінаванне крымскай дынастыі *Гірэяў*. Герб А. узыходзіць да т.зв. «Тарак-Тамгі», традыцыйнай геральдычнай эмблемы Гірэяў з выявай грэбеня (татарскае — «тарак») у выглядзе трызубца. Паходзілі ад царэвіча Дэўлеш-салтана — унука хана Хаджы-Гірэя, сына царэвіча Даўлет'яра. У пач. 1491 Дэўлеш-салтан і яго дзядзька Ізцемір, якія варагавалі з ханам Менглі-Гірэем, выехалі ў Кіеў. У пасланні крымскаму хану вял. князь ВКЛ і кароль польскі Казімір абяцаў не выпускаць абодвух царэвічаў за межы ВКЛ і ўпамінаў аб дараванні ім маёнтка. У канцы 1492 маскоўскі пасол паведамляў пра іх з Крыма, што «те царевичи, сказывают, поженилися в Литве, а отведены с Украины далече вглубь». Дзякуючы сваяцтву з крымскай дынастыяй род А. некаторы час займаў ганаровае становішча пры двары вял. князя і быў найб. уплывовым татарскім родам у ВКЛ. Як і царэвічы Пунскія, А. да сярэдзіны 16 ст. не ўваходзілі ў склад татарскіх харугваў, не падпарадкоўваліся татарскім харужым, мелі права (як князі і паны) з'яўляцца са сваім атрадам непасрэдна да гетмана. Найбольш звестак выяўлена пра сына

Дэўлеш-салтана Азубека-салтана (Азюбек, Узубек; ? — пасля 1540). Упершыню ён упамянуты ў грамаце Менглі-Гірэя 1507 з просьбай да Жыгімонта Старога вярнуць гэтаму царэвічу «данину», перададзеную нейкаму «москвитину». У 1514 Жыгімонт Стары падараваў Азубеку 70 двароў конюхаў, 2 парабкаў і 6 пусташаў пад Астрынай. З таго часу Азубек і яго нашчадкі ў актах ВКЛ называюцца царэвічамі Астрынскімі. У 1531 Азубек атрымаў буйны маёнтак Паложын у Менскім пав., у 1536 — Сцяпанаўскую зямлю ў Троцкім пав. Ён таксама валодаў маёнткамі Берастaвіца-Бігене ў Ваўкавыскім пав. Быў дваранінам гаспадарскім, удзельнічаў у цырымоніі абвяшчэння



Да арт. **Астрынскія**. Выявы гербаў на пячатках Азубека-салтана (1530-я г.; злева) і Джаная (1572).

Жыгімонта Аўгуста вял. князем ВКЛ (1529). У свіце Жыгімонта Старога прысутнічаў на Берасцейскім сойме 1533. Па даручэнні вял. князя неаднаразова выступаў суддзёй у спрэчках літоўскіх служылых татараў, выдаваў ім пасведчанні пра шляхецтва, якія пацвярджаліся вял. князямі. Быў жанаты з княжною Зоняй (Зосяй) Малікбашаўнай з літоўска-татарскага роду князёў Шырынскіх. Меў сыноў Багатыр-султана (упамянуты ў 1547), Джаная (упамінаецца ў 1555—72) і Чынгіса (упамінаецца ў 1555—98), якія атрымалі па спадчыне бацькоўскія ўладанні. Царэвіч Чынгіс і яго маці («царыца Астрынская») у 1555 дамагліся ад Жыгімонта Аўгуста пацвярджэння на патомнае ўладанне маёнткам Рыча пад Астрынай з умовай ваеннай службы. У 1567 А. (магчыма, Чынгіс) выставіў у войска ВКЛ 8 коннікаў. У 2-й пал. 16 ст. царэвічы А. пaступова страцілі свае ўладанні. Паложын прадалі земскаму падскарбію М.Нарушэвічу, Берастaвіцу-Бігене — гаспадарскаму маршалку М.Курчу (1588), Рыча трапіла ў заклад да земскага падскарбія Дз.Халецкага. Пасля смерці Чынгіса яго малалетнія дзеці ад шлюбу з княжной Умнай (Уланай) Агішаўнай Шырынскай у 1598 атрымалі прывілей Жыгімонта III Вазы, які пацвердзіў іх правы на маёнтак Рыча, а ў 1603 удава царэвіча прадала яго Халецкім. Род царэвічаў А. згас на яго дзецях. У генеалагічнай л-ры царэвічы А. памылкова лічыліся патомкамі апошняга хана Вял. Арды Шах-Ахмата.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Dziadulewicz S. Herbarz rodzin tatarskch w Polsce. Wilno, 1929. S. 245—246; Думин С.В. Татарские царевичи в Великом княжестве Литовском (XV—XVI вв.) // Древнейшие государства на территории СССР. 1987 г. М., 1989.

***Станіслаў Думін.***

**асэсар** (лац. assessor засядацель), судовая пасада ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, член некаторых судоў, што выносілі прысуд калегіяльна: задворнага асэсарскага, маршалкоўскага, соймавага, вайсковых і інш. судоў.

**атэізм** (грэч. а — адмоўная часціца + theós бог; літар. бязбожжа), сістэма поглядаў або вучэнне, якое адмаўляе існаванне Бога, звышнатуральнага (выключна духоўных сутнасцей, замагільнага свету, уваскрэсення з мёртвых, бяссмерця душы, стварэнне свету «з нічога» і інш.), лічыць рэлігію фантастычным адлюстраваннем рэальнасці. У сваім гіст. развіцці А. прайшоў некалькі этапаў, знітаваных з пэўнымі духоўна-культ. эпохамі (антычны, сярэдневяковы, рэнесансавы, асветніцкі, рэв.-дэмакр., марксісцкі). У ВКЛ 16—пач. 17 ст. атэістычная тэндэнцыя прысутнічала ў ерэтычных, радыкальна-рэфармацыйных вучэннях, спецыфічнай інтэрпрэтацыі антычнага эпікурэізму (С.*Будны*, К.*Бекеш*, С.*Лавейка*, Ю.*Даманеўскі* і інш.).

*Літ.*: Из истории свободомыслия и атеизма в Белоруссии. Мн., 1978; Свободомыслие и атеизм в древности, средние века и эпоху Возрождения. М., 1986; Падокшын С.А. Філасофская думка Беларусі эпохі Адраджэння: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990.

***Сямён Падокшын.***

**Аўгуст II** Моцны (у Саксоніі Фрыдрых Аўгуст I; 12.5.1670, г. Дрэздэн—1.2.1733), курфюрст саксонскі [1694—1733], кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1697—1706, 1709—33]. Малодшы сын саксонскага курфюрста з дынастыі Вецінаў Іагана Георга III. Саксонскі трон атрымаў пасля смерці старэйшага брата Іагана Георга IV, на трон Рэчы Паспалітай выбраны пасля смерці *Яна III* Сабескага. Заняўшы трон, умяшаўся ў канфлікт Сапегаў з большасцю бел. і літ. шляхты, беспаспяхова імкнуўся прымірыць варожыя групоўкі (гл. *Феадальная вайна 1697—1702*). Як саксонскі курфюрст з 1700 удзельнічаў у *Паўночнай вайне 1700—21* супраць Швецыі, у 1704 уцягнуў у гэтую вайну Рэч Паспалітую. Імкнуўся да абсалютнай улады. Збіраўся ператварыць ВКЛ у незалежную дзяржаву са спадчыннай уладай, у чым яго падтрымалі Радзівілы, Вішнявецкія, Агінскія, інш. магнаты і шляхта. Скарыстаўшы пагрозу шведскага нашэсця на ВКЛ, увёў на тэр. Беларусі і Літвы саксонскія войскі. Але саксонцы цярпелі паражэнне за



**Аўгуст II**. Карціна майстэрні Л. дэ Сільвестра. Каля 1728.

паражэннем, у 1701—02 шведы занялі літ. землі і ўступілі ў на тэр. Беларусі. Пасля канчатковага паражэння А. II падпісаў Альтранштацкі мір 1706 з Карлам XII і адмовіўся ад кароны Рэчы Паспалітай на карысць *Станіслава* Ляшчынскага, саюзніка Швецыі, выбранага каралём яшчэ ў 1704. Пасля разгрому шведскіх войск у Палтаўскай бітве 1709 вярнуўся на трон Рэчы Паспалітай. Намагаўся ўзмацніць сваю ўладу. Калі ў Рэчы Паспалітай разгарнулася барацьба паміж прыхільнікамі шляхецкай «залатой вольнасці» на чале з вял. гетманам ВКЛ Л.К.Пацеем (*Віленская канфедэрацыя* і *Тарнагродская канфедэрацыя*) і прыхільнікамі караля на чале з польным гетманам ВКЛ С.Э.Дэнгафам (*Сандамір-*

*ская канфедэрацыя*), Пацея падтрымалі магнаты, а А. II — Расія і Прусія. З гэтага часу пачалося актыўнае ўмяшанне Расіі ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай. «Нямы сойм» 1717 устанавіў пратэкцыю рас. цара над Рэччу Паспалітай, была максімальна абмежавана колькасць войск ВКЛ (6 тыс.) і Польшчы (18 тыс.). Пасол Пятра I Р.Ф.Далгарукі прадыктаваў сойму пастанову аб забароне дысідэнцкай шляхце (праваслаўным і пратэстантам) займаць дзярж. пасады, што было прынята соймам. У Рэчы Паспалітай у гэты час было 60 тыс. рас. войска. Пётр I дамогся, каб 30 тыс. саксонскага войска было выведзена з Рэчы Паспалітай. Акрамя Расіі ў паліт. справы Рэчы Паспалітай пачалі ўмешвацца Прусія, Аўстрыя і Францыя. А. II больш клапаціўся пра гасп. і культ. развіццё Саксоніі, а інтарэсы Рэчы Паспалітай падпарадкоўваў дынастычным мэтам. Намагаючыся ўзмацніць сваю ўладу ў Польшчы і ВКЛ, абапіраўся на дапамогу суседніх дзяржаў, на карысць якіх збіраўся аддаць частку тэр. Рэчы Паспалітай. З прычыны выключнай фізічнай сілы і шматлікіх любоўных прыгод быў празваны Моцным і карыстаўся папулярнасцю сярод шляхты.

*Літ.*: Narbutt J. Dzieje wewnętrzne narodu litewskiego za Sobieskiego i Augusta II. T. 1—2. 2 wyd. Wilno, 1843; Jarochowski K. Dzieje panowania Augusta II. T. 1—3. Poznań, 1856—90; Staszewski J. August II. Warszawa, 1986; Markiewicz M. Rady senatorskie Augusta II (1697—1733). Wrocław etc., 1988; Грыцкевіч А. Аўгуст II Моцны // Культура. 1994. 18 мая.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Аўгуст III** (у Саксоніі Фрыдрых Аўгуст II; 17.10.1696, г. Дрэздэн—5.10.1763), курфюрст саксонскі, кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1733—63]. Сын *Аўгуста II* Моцнага. Прэтэндаваў на трон Рэчы Паспалітай адначасова са *Станіславам* Ляшчынскім. Заняў трон пры дапамозе рас. і саксонскіх войск у час вайны за польскую спадчыну 1733—35. За гады яго праўлення ў краіне пашырылася феад. анархія, знізіўся міжнар. прэстыж Рэчы Паспалітай, пачаўся глыбокі паліт. крызіс. Соймы часта распускаліся з прычыны актыўнага выкарыстання права *«ліберум вета»*. Цэнтр. ўлада амаль не дзейнічала. Мясц. ўлады ў паветах і магнаты праводзілі сваю незалежную палітыку. А. III не меў сваіх паліт. канцэпцый, кіраваў з дапамогай фаварытаў, асаблівым уплывам з 1738 карыстаўся граф Г.Бруль. З-за дзярж.-паліт. дэзарганізацыі Рэч Паспалітая ўсё больш трапляла ў залежнасць ад суседніх дзяржаў, асабліва Расіі. Аднак пры А. III ажывіліся культ. жыццё і эканоміка (развіццё мануфактур), пачалася адукацыйная рэформа ордэна піяраў.

*Літ.*: Staszewski J. August III Sas. Wrocław, 1989; Грыцкевіч А. Аўгуст III // Культура. 1994. 29 чэрв.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Аўгустаў** (польск. Augustów, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), мястэчка ў Падляшскім ваяв., на р. Нета, вакол азёры Нецка, Белае, Сайна. Узнікла на дзярж. землях, што знаходзіліся ў трыманні Радзівілаў (Гарадзенскае і Кнышынскае староствы). У 1526 або 1527 Я.М.Радзівіл заклаў карчму на р. Мета (Нета), на вял. шляху з Гародні да Праўдзішак. У 1540 на гэтым месцы каралева і вял. княгіня Бона заснавала фальварак, названы Зыгмунтова ў гонар мужа (Жыгімонта I) і сына (Жыгімонта II Аўгуста). У 1555 тут упамінаецца мястэчка А. Ініцыятарам заснавання мястэчка быў кнышынскі стараста П.Хвальчэўскі. 17.5.1557 Жыгімонт II Аўгуст даў А. магдэбургскае права, дазволіў праводзіць 2 кірмашы штогод. А. мела герб — у чырвоным полі літары SA (ініцыялы Жыгімонта Аўгуста пры лацінскім напісанні імя пад велікакняжацкай каронай). Жыгімонт Аўгуст фундаваў у А. правасл. царкву (пазней уніяцкая). З 1569 у Польскім каралеўстве. Пасля смерці Ганны з Радзівілаў Кішкі (1571) А. перайшоў непасрэдна да Жыгімонта II Аўгуста. Аўгустоўская вол. была вылучана з Кнышынскага староства ў самастойнае Аўгустоўскае староства, якое было перададзена ў валоданне каралевы і вял. княгіні Ганны Ягелонкі.



**Аўгуст III**. Карціна Л. дэ Сільвестра. 1737.

*Літ.*: Wiśniewski J. Nieznany oryginał dokumentu lokacji Augustowa z 1557 roku // Rocznik białostocki. Białystok, 1962. T. 3; Studia i materiały do dziejów Pojezierza Augustowskiego. Białystok, 1967.

***Валерый Пазднякоў.***

**аўгустдор**, залатая манета Рэчы Паспалітай, якая білася каралём Аўгустам III у Лейпцыгу на манетным двары Саксоніі ў 1753—58. Лігатурная маса 6,65 г, проба 910 праміле, дыяметр 24 мм. Мела выяву манарха і пазначэнне вартасці ў 5 талераў па ўзору прускага фрыдрыхсдора, іспанскага пістоля, французскага луідора. У час Сямігадовай вайны 1756—63 захопленымі сапраўднымі штэмпелямі А. біў кароль Прусіі Фрыдрых II у 1758—60 з датамі 1755 і 1756, але паніжанай пробы (колькасць золата каля 4,2—4,3 г). Кароль Прусіі Фрыдрыхам II чаканіў у 1761—62 А. яшчэ горшай





Двайны **аўгустдор** 1756 Аўгуста III.

якасці з датай 1758 (проба 319 праміле, колькасць золата каля 2 г).

***Іван Сінчук.***

**Аўгустыняк** (Augustyniak) Уршуля Ганна (н. 1950), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1988), праф. звычайны (2000). Скончыла Варшаўскі ун-т (1973). З 1977 выкладае ў Гіст. ін-це Варшаўскага ун-та, нам. дэкана гіст. факультэта ў 1991—93, з 1994 кіраўнік кафедры (з 2000 цэнтр) старапольскай культуры. Працы па гісторыі культуры, паліт. думкі, рэліг. адносін у ВКЛ і Рэчы Паспалітай у 16—17 ст. Выдала зборнікі дакументаў: «Арлеанская змова» ў 1626—1628 гг.» («Spisek orleański» w latach 1626—1628», Варшава, 1990, з В.Сакалоўскім), «Тастаменты рэфармаваных евангелістаў у Вялікім княстве Літоўскім у XVI—XVIII стст.» («Testamenty ewangelików reformowanych w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI—XVIII wieku», Варшава, 1992).

*Тв.*: Informacja i propaganda w Polsce za Zygmunta III. Warszawa, 1981; Koncepcje narodu i społeczeństwa w literaturze plebejskiej od końca XVI do końca XVII wieku. Warszawa, 1989; Wazowie i «królowie rodacy»: Studium władzy królewskiej w Rzeczypospolitej XVII wieku. Warszawa, 1999; The upbringing of young Radziwiłłs in XVII c. // Acta Poloniae Historica. 1999. T. 79; Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640): Mechanizmy patronatu. Warszawa, 2001; Inwentarze mienia radziwiłłowskiego z XVI—XVII wieku jako źródło do historii mentalności i życia codziennego — możliwości badań // Kwartalnik historii kultury materialnej. 2003. № 2.

**аўгусцінцы**, манахі каталіцкага жабрацкага манаскага ордэна св. Аўгусціна («Ордэн пустэльнікаў святога Аўгусціна», лац. Ordo Fratrum Eremitarum Sancti Augustini, OESA). Паводле легендарнай версіі царквы, ордэн утвораны ў 391 біскупам г. Гіпон (Паўн. Афрыка) Аўрэліем Аўгусцінам (354—430). На самай справе ён узнік пасля аб'яднання 4 кангрэгацый манахаў-пустэльнікаў і зацверджаны булай папы Аляксандра IV у 1256. У аснову яго дзейнасці пакладзена т.зв. «Правіла святога Аўгусціна» — зборнік тэкстаў, напісаных нібыта Аўрэліем Аўгусцінам. На чале ордэна стаяў генерал, якога выбіраў ордэнскі капітул. Улада генерала была абмежавана дзейнасцю дэфінітарыяў (дарадчыкаў). Кляштары (канвікты) А. аб'ядноўваліся ў правінцыі. Вопратка А. — чорны хабіт. У перыяд позняга сярэднявякоўя А., як і *францысканцы*, абаранялі кірунак сярэдневяковай схаластыкі — аўгусцініянства (арыентацыя на Платона, неаплатанізм, аналогія паміж трыма здольнасцямі душы — памяццю, розумам, воляй — і трыма абліччамі Тройцы, тэзіс аб веры як перадумове ўсялякіх ведаў і інш.). У 16 ст. манахі-А. падтрымалі *Рэфармацыю*. Заснавальнік пратэстантызму М.Лютэр да свайго разрыву з каталіцызмам належаў да ордэна А. У ВКЛ і Польшчы ордэн А. быў самым нешматлікім сярод жабрацкіх ордэнаў. У Польшчы яны з'явіліся ў 13 ст. (кляштары належалі да Нямецкай, пасля Турынска-Саксонскай і Баварскай правінцый). У 1431 Баварская правінцыя А. падзелена на Польскую (Малая Польшча), Мазавецкую і Рускую (літ.-рус. землі) акругі. У 1547 створана Польская правінцыя. У ВКЛ існавалі *Берасцейскі кляштар аўгусцінцаў*, *Міхалішкаўскі кляштар аўгусцінцаў*, кляштары ў Гародні (1503—1673, фундатар вял. князь ВКЛ Аляксандр), Кодні (1646—55), Вільні (з 1675) і інш. Існавала жаночая галіна ордэна.

*Літ.*: Uth G. Szkic historyczno-biograficzny zakonu augustiańskiego w Polsce. Kraków, 1930; Zakony męskie w Polsce w 1772 roku: Materiały do Atlasu historycznego chrześcijaństwa w Polsce. T. 1. Lublin, 1972.

***Людміла Карнілава.***

**Аўкштайція** (літ. Aukštaitija ад aukštas высокі, верхні), гісторыка-геаграфічны рэгіён ВКЛ. Традыцыйна так называюць землі, заселеныя балтамоўным насельніцтвам на З ад *Жамойці*, вышэй па цячэнні Нёмана і яго правых прытоках (адсюль назва). Пры апісанні падзей 1294—1300 храніст *Пётр з Дусбурга* ўпамінае пра дзейнасць аднаго крыжака «ў А. (Austechia), зямлі літоўскага караля, у якой спаліў горад, што прызываецца Рамена» (на правым беразе Нявежы). У *дагаворы 1323* ВКЛ з Лівонскім ордэнам упамінаецца «зямля А. (Eusteythen)». Крыжацкі храніст назваў Гедзіміна «каралём А. і Жамойці». Паводле ўяўленняў храніста 14 ст. *Германа з Вартберга*, А. — зямля «ў найвышэйшых краях літвінаў», дзе ляжаць Вількамір, Жэймы, Шаты, Ворхава. Паводле адной крыжацкай крыніцы, напярэдадні *бітвы на Стрэве 1348* рыцары 8 дзён пустошылі «зямлю Літвы, што звалася А.». У лісце 1420 да імператара Жыгімонта I вял. князь ВКЛ Вітаўт паведамляў, што «жамойты астатнюю частку Літвы называюць А. (Auxstote), бо гэта зямля знаходзіцца вышэй, калі глядзець з зямлі Жамойці». У 15 ст. ўсх. граніца Жамойці ўсталёўвалася па р. Нявежа, а назва «А.» практычна выйшла з ужытку. Гісторык Г.*Лаўмянскі* меркаваў, што А. складалася з *Нальшчанаў*, *Дзяволтвы*, Літоўскай зямлі і Упіты; у стараж. Літве існавалі 2 плямі: жамойць і аўкштота, мяжа паміж якімі ішла па р. Шушва да яе ўпадзення ў Нявежу, а пасля па Нявежы, з 2-й паловы 14 ст. мяжа ўсталёўвалася па Нявежы. Гэта меркаванне прыняў У.Ц.*Пашута*. Е.*Ахманскі* меркаваў, што аўкштайцкі (усх.-літоўскі) культурны абшар падзяляўся на 3 часткі: уцянскую (Нальшчаны), троцкую (уласна Літва) і ашмянска-геранёнскую паміж Мерачанкай, Нёманам, Бярэзінай і Віліяй (магчыма, яна і называлася А.). У цяперашні час А. называюць тэрыторыі, населеныя літоўцамі, што гавораць на аўкштайцкіх дыялектах, у т.л. Занямонне і паўд. частку стараж. Жамойці амаль да Куршскага заліва.

***Валерый Пазднякоў.***

**Аўрамкі летапіс**, летапісны звод, складзены ў апошняй чвэрці 15 ст. ў Пскове або ў Ноўгарадзе на аснове больш



Ліст **Аўрамкі летапісу**.

стараж. рус. летапісных крыніц. Ахоплівае падзеі да 1469. У ім адлюстравана гісторыя Кіеўскай і Маскоўскай Русі, Ноўгарада, часткова ВКЛ, барацьба ўсх.



славян супраць іншаземных захопнікаў. Найб. каштоўныя і цікавыя матэрыялы за 14—15 ст., далучаныя да летапісу юрыд. артыкулы, у т.л. Руская праўда. У 1495 гэты летапісны звод перапісаны ў Смаленску Аўрамкам. Быў распаўсюджаны на Беларусі. На аснове А.л. ўзнік Віленскі спіс, у канцы якога змешчаны тэкст *«Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»*. Звесткамі А.л. часткова карыстаўся складальнік Супрасльскага летапіснага зборніка 1-й пал. 16 ст. Надрукаваны А.л. у «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 16, 1889). Сведчыць пра культ. ўзаемасувязі бел. і літоўскіх зямель з Ноўгарадам і Псковам у 15—16 ст.

*Літ.*: Шахматов А.А. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. М.; Л., 1938. С. 231—255.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**аўстэрыя** (ад італьян. osteria), заезны дом, від *карчмы*. На Беларусі вядома з 16 ст. (Гародна і інш.). Вельмі пашырана з 18 ст. (Глуск, Паставы, Тураў, Ашмяны, Слуцк, Варняны і інш.). Размяшчалася звычайна ў цэнтры горада ці мястэчка, каля рынку. Будавалі з дрэва або каменю. Уключала стайні, вазоўні, гасціныя пакоі, каморы. А. паслужыла прататыпам для паштовай станцыі, гасцініцы.

**Афанасій Берасцейскі** [Афанасій Філіповіч; каля 1595, Берасцейшчына — 5(15).9.1648], святы беларускай праваслаўнай царквы, пісьменнік-публіцыст, палітычны і царкоўны дзеяч. З сям'і незаможнага шляхціца. Меў даволі добрую адукацыю. У 1622 канцлер ВКЛ Л.І.Сапега прызначыў яго выхавацелем Я.Ф.Лубы, якога польскія прыдворныя выдавалі за рус. царэвіча, прэтэндэнта на маскоўскі трон. У 1627 А.Б. пастрыгся ў манахі пры Віленскім Святадухаўскім манастыры. Жыў у манастырах Куцеінскім (пад Оршай), Міжгорскім (пад Кіевам), Дубайскім, Купяціцкім (каля Пінска); у 1640—41 ігумен Сімяонаўскага манастыра ў Берасці. У 1637—38 ездзіў да рас. цара, у спец. рэляцыі «Гісторыя падарожжа ў Маскву» расказаў пра цяжкае становішча правасл. насельніцтва Беларусі і Украіны ў складзе Рэчы Паспалітай. За супрацьдзеянне *Берасцейскай уніі 1596*, рэзкія выпады ў адрас караля ў 1643 сасланы ў Кіеў, у 1644 арыштаваны як «дзяржаўны злачынца» па справе Лубы. З варшаўскай турмы накіраваў каралю шэраг артыкулаў з крытыкай палітыкі Рэчы Паспалітай, царк. іерархаў і свецкіх магнатаў. Выступаў за адраджэнне правасл. царквы і саюз з Рас. дзяржавай. Праз год пасля выхаду на волю зноў арыштаваны (1648) і абвінавачаны ў аказанні дапамогі казакам Б.Хмяльніцкага. Пасля здзекаў і жорсткіх катаванняў па прыгаворы суда расстраляны. Аўтар «Дыярыуша» (1646), які змяшчае ўсю яго публіцыстыку і напеў (запісаны кіеўскай 5-лінейнай натацыяй) гімнападобнага канта — аднаго з найб. ранніх нотных запісаў у бел. музыцы. Кананізаваны царквой паміж 1658 і 1666. Памяць двойчы: 20 ліп. — аднойдзенне мошчаў і 5 вер. — спачын (паводле старога стылю). Мошчы А.Б. знаходзяцца ў Брэсце. У яго памяць пабудавана капліца ў в. Гершоны Брэсцкага р-на, а ў Гродзенскім Барысаглебскім манастыры — царква (не захавалася).

*Тв.*: Дыярыуш // Полымя. 2002. № 1.

*Літ.*: Станкевич А. Игумен Афанасий Филипович и шляхтич Ян Луба // Памятники русской старины в западных губерниях. СПб., 1885. Вып. 8; Коршунов А.Ф. Афанасий Филипович: Жизнь и творчество. Мн., 1965; Мельников А.А. Путь не печален: Ист. свидетельства о святости Белой Руси. Мн., 1992.

**Афтаназы** (Aftanazy) Раман (2.4.1914, г.п. Морштын Львоўскай вобл., Украіна— 6.6.2004), польскі гісторык культуры. Скончыў Вроцлаўскі ун-т (1946). У 1944—81 працаваў у б-цы Нац. цэнтра імя Асалінскіх у Львове і Вроцлаве. Даследуе гісторыю магнацкіх і шляхецкіх сядзіб на б. усх. землях Рэчы Паспалітай (Беларусь, Украіна, Літва, Латвія), архітэктуру маёнткаў, паркавае мастацтва, гісторыю мастацкіх збораў і бібліятэк, генеалогію ўладальнікаў сядзіб. Увёў у навук. ўжытак шматлікія дакументы з дзярж. і прыватных архіваў, багатыя іканаграфічныя матэрыялы.

*Тв.*: Materiały do dziejów rezydencji. T. 1—11. Warszawa, 1986—93; Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 1—11. 2 wyd. Wrocław etc., 1991—97.

**Ахманскі** (Ochmański) Ежы (4.12.1933, г. Руднікі Тарнабжэгскага ваяв., Польшча—15.6.1996), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1965), праф. звычайны (1976). Скончыў Пазнанскі ун-т (1955), дзе пасля выкладаў. Вучань Г.*Лаўмянскага*. З 1968 загадчык кафедры гісторыі СССР (пасля аддзел гісторыі народаў СССР). У 1969—71 дэкан філасофска-гіст. факультэта, у 1971—76 віцэ-дырэктар Ін-та гісторыі Пазнанскага ун-та. Аўтар прац па гісторыі ВКЛ, крыніцазнаўстве, гіст. геаграфіі, культуры Усх. Еўропы, міжнар. культ. сувязей. Даследаваў гісторыю каталіцкай царквы ў ВКЛ у канцы 15 — сярэдзіне 16 ст. У кн. «Гісторыя Літвы» («Historia Litwy», Вроцлаў і інш., 1967, 3-е выд. 1990) прывёў шмат новых крыніц, распрацаваў арыгінальную схему перыядызацыі гісторыі Літвы, з улікам і сацыяльна-эканам., і кардынальных паліт. зрухаў. Аўтар даследаванняў пра Хроніку Быхаўца, пра творчасць і жыццёвы шлях Міхалона Літвіна, М.Гусоўскага і інш., публікацый па гісторыі літ. нац. руху 19 — пач. 20 ст. Выдаў зборнік прывілеяў вял. кн. Вітаўта *«Вітальдыяна»*.

*Тв.*: Gospodarka folwarczna w dobrach hospodarskich na Kobryńszczyźnie: Studium z dziejów folwarku na Białorusi. Koniec XV—pocz. XVII w. // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1958. ą 3; Położenie społeczno-gospodarcze i walka klasowa chłopów w ekonomii kobryńskiej w drugiej połowie XVI i pierwszej połowie XVII wieku // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1958. T. 19; Organizacja obrony w Wielkim Księstwie Litewskim przed napadami Tatarów krymskich w XV—XVI wieku // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1960. T. 5; Ludność litewska we włości Obolce na Białorusi wschodniej w XIV—XVI w. // Acta Baltico-Slawica. Białystok, 1967. T. 5; Nad Kroniką Bychowca // Studia źródłoznawcze. 1967. T. 12; Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972; Gesellschaft und Wirtschaft Litauens von Ausgang des 14 Jahrhunderts bis 1655 // Uniwersytet im. Adama Mickiewicza w Poznaniu. Studia Historiae Oeconomicae. 1980. Vol. 15; Litewska granica etniczna na wschodzie od epoki plemiennej do XVI wieku. Poznań, 1981; Dawna Litwa: Studia historyczne. Olsztyn, 1986; Moniwid i jego ród: Studium z dziejów możnowładztwa litewskiego w XV wieku. Pierwsze w Wielkim Księstwie Litewskim latyfundium świeckie // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 2003. T. 9.

*Літ.*: Litwa i jej sąsiedzi od XII do XX wieku. Poznań, 1994 (змешчана бібліяграфія прац А.); Pietkiewicz K. Profesor Jerzy Ochmański (4 grudnia 1933 — 15 czerwca 1996) // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1997. T. 7.

***Георгій Галенчанка.***

**ахмістр** (жан. р. ахмістрыня), кіраўнік панскага двара, які адказваў за задавальненне асабістых патрэб пана. З цягам часу ў абавязкі А. пераходзіла кіраўніцтва гаспадаркай маёнтка: кантроль за сяўбой, зборам і захаваннем ураджаю, забеспячэнне догляду жывёлы і ахова панскага лесу, межаў маёнтка, а таксама за спагнаннем павіннасцей (абавязкі *аканома*).




**Ашмянская друкарня.** Заснавана да 1615 у маёнтку Мураваная Ашмяна (Ашмянскі пав., цяпер паблізу в. Мураваная Ашмянка Ашмянскага р-на) на сродкі маршалка ВКЛ К.М.*Дарагастайскага*. У 1615 выдала палемічны твор мясц. прапаведніка-евангеліка В.Саліна-рыуса «Цэнзура» ў 6 кнігах, накіраваны супраць выданняў ракаўскіх сацынiян. У выданні выкарыстаны паліграфічныя матэрыялы Любчанскай друкарні, таму некат. даследчыкі лічаць, што «Цэнзура» была надрукавана П.Б.Кмітам у Любчы. Інш. выданні друкарні не выяўлены.

*Георгій Галенчанка.*

**Ашмянскі павет**, А ш м е н с к і п а в е т, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у складзе *Віленскага ваяводства*. Цэнтр — г. *Аш-*



*мяны*. У 14—1-й пал. 16 ст. Ашмянская вол. часам называлася паветам. А.п. створаны паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66. Гістарычна падзяляўся на 2 часткі — Ашмянскую і Завілейскую. У склад новастворанага павета ўвайшлі Ашмянская, Крэўская, Маркаўская валасці, паўн. часткі Мемежскай вол. і Віленскага цівунства, невял. часткі тэр. Медніцкай, Рудамінскай і Краснасельскай валасцей, а таксама былыя маёнткі Гаштольдаў і Радзівілаў (гаспадарскія валасці Геранёны, Трабы, Куранец, Мядзел і інш.). Земскія і гродскія суды А.п. праходзілі ў Ашмянах і Мядзелі, з 1775 — у Ашмянах і Паставах. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* А.п. у ліп.— пач. жн. 1655 быў заняты рас. войскамі. У час акупацыі быў праведзены новы адм. падзел: Ашмяны падпарадкоўваліся царскаму віленскаму ваяводу, а Завілейская частка павета — царскаму глыбоцкаму ваяводу, для якога была пабудавана фартэцыя каля мяст. Глыбокае Полацкага ваяв. А.п. вызвалілі ў пач. 1660, яго гаспадарка была поўнасцю разбурана, насельніцтва скарацілася напалову. У час *Паўночнай вайны 1700—21* актыўныя ваен. дзеянні на тэр. павета вяліся ў 1705—08, насельніцтва моцна пацярпела. У 1791 павет падзелены на А.п. (з цэнтрам у Ашмянах) і *Завілейскі павет* (з цэнтрам у Паставах). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) усх. частка Менскага пав. ў міжрэччы Бярэзіны і Нёмана з мястэчкамі Налібокі і Дзераўная была далучана да А.п. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) А.п. у складзе Рас. імперыі.

***Герман Брэгер.***

**Ашмяны**, А ш м е н а (цяпер горад, цэнтр Ашмянскага р-на Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр Ашмянскага пав. Віленскага ваяв., на р. Ашмянка. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы літоўскай і жамойцкай» у сувязі з перадачай вял. кн. Гедзімінам (памёр у 1341) яшчэ пры сваім жыцці Віленскага ўдзела з Ашмянскім,Ількамірскім і Браслаўскім паветамі свайму сыну Яўнуту. Першае датаванае ўпамінанне А. — 1385 («Хроніка» Віганда з Марбурга). Першымі велікакняжацкімі намеснікамі ў А. былі Гедыгольд (1387), Мінгайла (1388), Дзягірд (Доўгерд, 1434), цівуном Мордас Мішкавіч (1494). У 1398 віленскі біскуп Андрэй зрабіў фундушавы запіс ашмянскаму парафіяльнаму касцёлу Св. Духа. У 1407




Герб **Ашмянаў** з прывілея 1792.

віленскі староста Манівід (Войцех) запісаў 2 падданых ужо існуючаму касцёлу і кляштару францысканцаў (у 1505 вял. князь літоўскі і кароль польскі Аляксандр аднавіў фундуш францысканскаму кляштару). Можна меркаваць, што кляштар францысканцаў больш старажытны, чым парафіяльны касцёл, бо мясцовасць, дзе знаходзіўся кляштар, ужо ў 1-й пал. 15 ст. называлася Старая Ашмяна, а парафіяльны касцёл — Новая Ашмяна. У жн. 1432 на А. напаў вял. кн. Жыгімонт Кейстутавіч і ледзь не захапіў у палон вял. кн. Свідрыгайлу, які знаходзіўся тут са сваім дваром. 8.12.1432 пад А. адбылася бітва паміж войскамі Свідрыгайлы і Жыгімонта, у якой Свідрыгайла быў разбіты. У вайну *Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* у 1519 заняты маскоўскім войскам. Паводле інвентара 1551 у А. налічвалася 46 сем'яў мяшчан. Побач з горадам размяшчаўся гаспадарскі двор. У 1560 у Ашмянскім старастве праведзена валочная памера. З 1520-х г. Ашмянская валасць аддавалася ў трыманне Юндзілам, Забярэзінскім і інш. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 ВКЛ быў утвораны Ашмянскі пав. У 2-й пал. 16 ст. на скрыжыванні 4 асн. дарог у горадзе ўзнікла гандлёвая плошча; пабудаваны кальвінскі збор. У 1667 ашмянскі земскі пісар А.Пачобут-Адляніцкі фундаваў касцёл і кляштар дамініканцаў. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* заняты рас. войскамі ў жн. 1655, вызвалены войскамі ВКЛ у ліп. 1660. У *Паўночную вайну 1700—21* А. ў 1708 заняты і разрабаваны шведамі. У канцы 18 ст. каля 1000 ж., 142 дамы. Паводле інвентара 1740 Ашмянскага старaства, гораду А. належала 50 валок зямлі, існавалі Рыначная плошча (10 мяшчанскіх дамоў, шляхецкія карчма і двор, касцёл і кляштар дамініканцаў, парафіяльны касцёл з плябаніяй і шпіталем), вуліцы Гальшанская (13 дамоў), Папярэчная (4 дамы і шляхецкі двор), Віленская (10 дамоў), Св. Духа (4 дамы) і Жупранская (25 дамоў), на р. Ашмянка млын. Відаць, у сярэдзіне 18 ст. А. атрымалі ад караля прывілей на пэўнае самакіраванне (але не абавязкова магдэбургскае права). У 1772 у А. старасцінскі двор («замак»), млын, драўляная ратуша з крамамі на Рынку, 89 мяшчанскіх дамоў, шляхецкі двор. 22.5.1792 горад атрымаў прывілей на вольнасць мяшчан ад гродскага, земскага і дворнага прысуду з правам мець свой магістрат і суд пад кіраўніцтвам бурмістраў і лаўнікаў і герб: сярэбранае поле шчыта падзелена на 3 часткі, у правай — рука з залатымі шалямі, у левай — шчыт, у ніжняй — чырвонае цялё. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Б а р а в ы Р. Старадаўнія Ашмяны // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1986. № 3.

***Герман Брэгер.***

**Ашэрадэнская бітва 1279**, бітва войск ВКЛ на чале з вял. кн. Трайдзенем з аднаго боку і рыцараў Лівонскага ордэна і іх саюзнікаў з другога. Адбылася 5.3.1279 на левым беразе Дзвіны насупраць Ашэрадэна (цяпер Айзкраўкле, Латвія). У сярэдзіне лютага магістр Лівонскага ордэна Эрнст фон Расбург разам з дацкім намеснікам у Рэвелі (Таліне) Эйлардам фон Обергам увараўся з войскам у Літву, у Кернаўскую зямлю. «Зямля караля Трайдзеня» была спустошана, і лівонскае войска з вял. здабычай пайшло назад. Трайдзень хутка склікаў войска і адправіўся ў пагоню. Эрнст фон Расбург ужо распусціў частку апалчэння (мабыць, куршаў), калі даведаўся пра пагоню. Ён умацаваўся ў сваім лагеры і не адважваўся ўступіць у бой. Гэта дапамагло літоўцам згуртаваць свае сілы. Калі сабралася дастаткова ваяроў, літоўцы пачалі бітву. Сутыкнуўшыся з шалёным супраціўленнем, частка літоўцаў адступіла і ўцягнула за сабой у пагоню датчан. Між тым асн. літ. сілы пачалі граміць войска Эрнста фон Расбурга. Земгалы з войска рыцараў перайшлі на літ. бок. Лівонскія рыцары былі цалкам разбіты. Датчане, якія вярнуліся з пагоні, убачылі, што бітва прайграна, а літоўцы адрэзалі шлях да адступлення. Толькі частка дацкіх рыцараў здолела вырвацца з акружэння. У бітве загінулі магістр Эрнст



фон Расбург, 71 лівонскі рыцар, Эйлард фон Оберг і інш. А.б. — буйнейшая перамога войск ВКЛ над крыжакамі ў 13 ст. пасля *бітвы на Дурбе 1260*. Яшчэ ў час бітвы земгалы ў апошні раз пачалі паўстанне супраць улады Лівонскага ордэна. Паўстанне ўзначаліў кн. Намейсіс. Трайдзень падтрымаў яго, а Намейсіс прызнаў вярхоўную ўладу правіцеля Літвы. Толькі ў 1290 ордэну ўдалося канчаткова пакарыць Земгалію, пасля чаго шмат земгалаў перасялілася ў Літву.

*Літ.*: Varakauskas R. Kautynės ties Ašerade (1279 m.) // Lietuvos TSR aukštųjų mokyklų mokslo darbai. Istorija. Vilnius, 1963; Raulinaitis Z. Lietuvos raiteliai. Kn. 4. Karaliaus palikimas. Vilnius, 1996.

***Томас Баранаўскас.***





**Баберскі** (Boberski) Войцех (н. 15.2.1958, г. Катавіцэ, Польшча), польскі гісторык архітэктуры. Магістр. Скончыў Варшаўскі ун-т (1982). З 1989 працуе ў Ін-це мастацтва Польскай АН. Даследуе архітэктуру 17—18 ст. Польшчы і ВКЛ.

*Тв.*: W kręgu fundacji Jana Fryderyka Sapiehy (1680—1751) // Między Padwą a Zamościem. Warszawa, 1993 (з М.Баберскай); Architektura ziem I zaboru rosyjskiego // Kultura i polityka: Wpływ polityki rusyfikacyjnej na kulturę zachodnich rubieży imperium rosyjskiego (1772—1915). Warszawa, 1994; Dzieje fary w Witebsku i jej architektoniczne przemiany // Sztuka kresów wschodnich. Kraków, 1999. N. 4; Późnobarokowa cerkiew katedralna w Witebsku i jej rzymski pierwowzór // Biuletyn historii sztuki. 2000. № 1—2; «Projekt» zboru kalwińskiego w Słucku z warsztatu XVII — wiecznego cieśli // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Jan Wilhelm Frezer: Architekt wileński trzeciej ćwierci XVIII wieku // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7. Z. 4 (28); Architektura kościoła i kolegium jezuitów w Witebsku // Roczniki humanistyczne Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego. Lublin, 2002. T. 50. Z. 4; Maryjne sanktuarium karmelitów w Białyniczach: Architektura i sztuka «Białoruskiej Częstochowy» // Sztuka kresów wschodnich. Kraków, 2004. T. 6.

**Баболя** (Bobola) Андрэй (30.11.1591, в.Страхоцін каля г.Санак, Польшча—16.5.1657), каталіцкі святы Беларусі, рэлігійны дзеяч, місіянер. Скончыў Віленскую езуіцкую акадэмію (1616), Віленскую тэалагічную акадэмію (1622). Член ордэна езуітаў (1611), ксёндз (1622). Працаваў у езуіцкіх установах Нясвіжа (1623—24), Вільні (1625—30), Бабруйска (1630—33), Плоцка (1633—38), Варшавы і Ломжы (1638—42). З 1642 у Пінску (у 1646—52 наездамі жыў і ў Вільні). Праславіўся як глыбокі знаўца твораў грэчаскіх айцоў царквы і здольны прамоўца, што дазваляла яму перамагаць




А.**Баболя**.

прадстаўнікоў праваслаўя ў дыспутах і схіляць іх да пераходу ў каталіцтва ці уніяцтва. Прапагандаваў ідэі *Берасцейскай унії 1596* у Вільні, Бабруйску, Полацку, Ломжы і Пінску; прыхільнікамі празваны «апосталам Піншчыны», а праціўнікамі — «душахватам». У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* схоплены і закатаваны ў в. Янаў-Палескі (цяпер г. Іванава Брэсцкай вобл.) атрадам казакоў палкоўніка А.Здановіча. Цела Б. перавезена ў Пінск і пахавана ў крыпце касцёла езуітаў; у 1702 эксгумавана і знойдзена нятленным. Культ Б. напачатку быў пашыраны ў Рэчы Паспалітай, потым у Аўстрыі і Германіі. 30.10.1853 яму нададзены пасмяротны тытул «блаславёны». У 1808 цела Б. перавезена ў Полацк, у 1922—24 экспанавалася ў Маскве ў музеі медыцыны, у 1924 перавезена ў Рым і змешчана ў езуіцкім касцёле Іль Джэзу. 17.4.1938 Б. кананізаваны (дзень памяці 16 мая), пасля чаго яго цела перавезена ў Варшаву, дзе знаходзіцца ў касцёле св. Андрэя Баболі. У 1958 рымскі папа Пій XII выдаў энцыкліку з нагоды 300-годдзя спачыну святога. Б. лічыцца гал. патронам Пінскай рымска-каталіцкай епархіі, а таксама ўшаноўваецца як адзін з патронаў Віленскай, Ломжынскай, Плоцкай, Вармінскай дыяцэзій.

*Літ.*: Poplatek J. Błogosławiony Andrzej Bobola Towarzystwa Jezusowego: Życie—Męczeństwo—Kult. Kraków, 1936; Сьвяты Андрэй Баболя. Мн., 1994.

***Эдмунд Ярмусік.***

**Баброк-Валынскі** (Боброк-Волынский) Дзмітрый Міхайлавіч (?—пач. 15 ст.), князь, ваенны і дзярж. дзеяч Маскоўскай дзяржавы. Паходзіў з валынскіх князёў, магчыма, *Астрожскіх*. У 1360-я г. выехаў у Маскву на службу да вял. кн. Дзмітрыя

Іванавіча, ад якога атрымаў чын баярына, ажаніўся з яго сястрой Ганнай. У 1371 разбіў пад Скарнішчавам войска разанскага кн. Алега Іванавіча, у 1376 — булгарскіх князёў Асана і Махмет-Салтана. У 1372 удзельнічаў у перагаворах з паслямі вял. князёў ВКЛ Альгерда і Кейстута. Зімой 1379—80 разам з князямі Уладзімірам Андрэевічам Серпухаўскім і Андрэем Альгердавічам удзельнічаў у паходзе на гарады Трубчэўск і Старадуб у ВКЛ, у час якога на бок Масквы перайшоў кн. Дзмітрый Альгердавіч. У *Кулікоўскай бітве 1380* разам з кн. Уладзімірам Андрэевічам Серпухаўскім узначальваў засадны полк рус. войск, атака якога вырашыла зыход бітвы. У канцы жыцця прыняў манаства.

*Літ.*: Кузьмин А.В. Родословная князя Дмитрия Михайловича Боброка-Волынского // Дмитрий Донской и эпоха возрождения Руси. Тула, 2001.

*Валерый Пазднякоў.*

**бабpоўнікі,** катэгорыя сялян-слуг у ВКЛ у 14—18 ст. Асноўнай павіннасцю Б. быў догляд і ахова бабровых гонаў, паляванне на баброў. Акрамя асноўнай службы Б. маглі выконваць дадатковыя павіннасці: плаціць чынш, хадзіць на талокі, нарыхтоўваць сена, даваць дзякла. Комплекс павіннасцей залежаў ад велічыні бабровых гонаў, традыцыі, волі пана. У 16 ст. за службу Б. атрымлівалі 5-га здабытага бабра або падчарэўе кожнага здабытага звера, або 1—3 грошы. У час *валочнай памеры* ў дзярж. уладаннях Б. адрозніваліся ад астатніх сялян-слуг тым, што не мелі вольных ад падаткаў валок, а плацілі іх як чыншавікі, за выключэннем 30 грошаў асаднага, за якія абавязаны былі трымаць сабак і мець сеткі для лоўлі баброў. Пасля Б. выконвалі службу з вольнага зямельнага надзелу. У год нявыдачы бабровага футра Б. плацілі павышаны чынш. Землезабяспечанасць Б. у 16—18 ст. складала каля 0,5 валокі, а вkilling — а выкананне службы патрабавалася з 1 валокі. Да 17 ст. для выканання сваёй службы Б. мелі паляўнічых сабак і лоўчыя сеткі, з 17 ст. шырока сталі выкарыстоўвацца жалезныя пасткі (яны захоўваліся ў панскім двары і выдаваліся Б. толькі ў час палявання).

Падпарадкоўваліся *бабpоўнічаму*, службоўцу са шляхты. Дзе Б. было шмат, яны аб'ядноўваліся ў асобныя абшчыны на чале са сваім старцам. З 2-й пал. 16 ст. колькасць Б. памяншаецца. Пры скасаванні бабpоўнічай службы Б. пераводзілі на выплату чыншу. У 18 ст. Б. захаваліся ў дзярж. лясніцтвах зах. Беларусі і ў прыватных уладаннях паўд. Беларусі.

*Алесь Доўнар.*

**бабpоўніцтва,** промысел па здабычы і гадоўлі каштоўнага пушнога звера — бабра. Бабёр — самы буйны водны грызун (даўжыня 70—120 см, маса 20—30 кг, хвост складае каля 1/3 ад агульнай даўжыні), мае грубыя бліскучыя асцюковыя валасы і густы, мяккі падшэрстак ад светла-каштанавага да амаль чорнага колеру. Баброў здабывалі для атрымання футра (найбольш цанілася чорнае), мяса і бабровага струменю (сакрэту мускусных залоз бабра, які, як лічылася, меў шырокія лекавыя якасці). Жывуць бабры цэлымі сем'ямі ў хатках і берагавых норах. На рэках са зменлівым па порах года ўзроўнем вады бабры будуюць плаціны з колля, якое пераплятаюць галінкамі, трыснягом, шчыліны замазваюць глеем; выхад з нор і хатак знаходзіцца пад вадой. Месцы, дзе вадзіліся бабры, у ВКЛ называлі бабровыя гоны, жарэмы (зерэмі). За нагляд за бабровымі гонамі ў межах асобнага ўладання адказваў *бабpоўнічы*. Панскія бабровыя гоны абслугоўвалі *бабpоўнікі*, а бабровыя гоны на сялянскіх землях эксплуатавалі самі сяляне, за што спачатку плацілі даніну пану часткай футра, а пасля — грашыма *бабpоўшчыну*, апошняе было характэрна для сялян усх. Беларусі ў 14—16 ст. Удзел ў паляванні на баброў быў адной з абавязковых павіннасцей падданых уладання. Баброў здабывалі з дапамогай сетак, пастак, лука, стрэльбы, спец. сабак — норнікаў (ямнікаў), якіх з маладога ўзросту прывучалі да вады, вучылі ныраць і г.д. Паляванне на баброў адбывалася позняй восенню—ранняй вясной, бо поўную спеласць футра набывала ў лістападзе—снежні. Бабровыя гоны маглі быць ў дзярж., прыватнай, царкоўнай уласнасці, а таксама ў руках некалькіх уладальнікаў. Дзяржава ахоўвала правы на бабровыя гоны. Статуты ВКЛ забаранялі гасп. дзейнасць каля бабровых гонаў на адлегласці кінутай палкі пад пагрозай штрафу 12 рублёў, а Статут 1588 за крадзеж і забойства баброў устанавіў штрафы: за чорнага бабра 4 капы грошаў, за карага — 2 капы грошаў. У 14—16 ст. бабровыя гоны існавалі паўсюдна ў ВКЛ. Але пагалоўе баброў скарачалася, арэал пражывання змяншаўся. У 17—18 ст. яны найб. захаваліся ў басейнах Сажа, Бярэзіны, Прыпяці, Ясельды, Піны, у Белавежскім, Азёрскім і Навадворскім лясніцтвах.

*Алесь Доўнар.*

**бабpоўнічы**, гаспадарчая пасада ў адміністрацыі феад. уладанняў ВКЛ. У абавязак Б. ўваходзіў нагляд за бабровымі ўгоддзямі (гонамі), за гадоўляй і лоўляй баброў, у яго падпарадкаванні знаходзіліся *бабpоўнікі*. Б. былі ў дзяржаўных, прыватных і царк. уладаннях. На пасаду Б. гаспадаром уладання прызначаліся звычайна шляхціцы. Пасада Б. была пашырана да 17 ст. Пасля абавязкі Б. перайшлі да лоўчых.

*Алесь Доўнар.*

**бабpоўшчына**, від аброку ў Полацкай зямлі ў 15—16 ст. Выплачвалася полацкімі мяшчанамі і валашчанамі вял. князю ВКЛ за права карыстацца бабровымі гонамі. Складала 200, пасля дамовы гаспадара з палачанамі ў 1497—100 руб. на год. Размеркаванне Б. ажыццяўлялі абшчыны. Б. ўпамінаецца ў *Полацкай рэвізіі 1552*, існавала і пазней.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т.1. С. 251.

*Валерый Пазднякоў.*

**Бабpуйск** (цяпер горад, цэнтр Бабруйскага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Рэчыцкім пав. Менскага ваяв, на р. Бярэзіна. Упершыню ўпамінаецца ў прывілеі вял. князя ВКЛ Ягайлы 27.4.1387, у ім пацвярджаюцца правы кн. Скіргайлы на валоданне сярод інш. зямель і *Бабруйскай воласцю* (старраствам), якая складалася з «Виленской и Троцкой половицы». З 1392 падпарадкоўваўся вял. князю Вітаўту; Б. — рэзідэнцыя велікакняжацкага намесніка (старасты), які быў падначалены віленскаму ваяводу. З 14 ст. існавалі *Бабруйскі замак* і *Бабруйскія гарадскія ўмацаванні*. У канцы 15—пач. 16 ст. горад захоплівалі і палілі татары. У час войнаў Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1507—08 і 1534—37 неаднаразова спустошаны маскоўскімі войскамі. У пач. 1508 захоплены атрадамі М.Л.Глінскага (гл. *Глінскіх мяцеж 1508*). З 16 ст. Б. перадаваўся ў часовае кіраванне прадстаўнікам найб. магутных шляхецкіх родаў. Паводле рэвізіі 1560 былі ўнармаваны павіннасці бабруйскіх месцічаў, перамераны ворныя землі




БАБРУЙСКАЯ ВОЛАСЦЬ (СТАРАСТВА) у 2-й палове XVI–1-й палове XVII ст.




Аўтар В.Л.Насевіч

горада. З 1565 Б. у Рэчыцкім пав. Менскага ваяв. У 2-й пал. 16 ст. дзейнічала царква св. Міколы, пры якой існавала правасл. брацтва. З 1618 у Б. пачалі місіянерскую дзейнасць нясвіжскія езуіты. Паводле інвентара 1626 у Б. 409 двароў, 15 вуліц, 2 завулкі, 75 крам, цэрквы св. Міколы і св. Ільі, касцёл св. Пятра і Паўла; горад абнесены земляным валам з драўлянымі сценамі, якія былі ўмацаваны двухпавярховымі вежамі (каля 10), меў 5 брам: Падольную, Свіслацкую, Кісялёўскую, Слуцкую і Прудовую. Паводле прывілея 1639 вял. кн. ВКЛ Уладзіслава IV месцічам Б. дазвалялася праводзіць 2 кірмашы па 2 тыдні кожны, а таксама пацвярджаліся ўсе ранейшыя прывілеі пачынаючы з 1561. У 1639—44 Бабруйскае староства разам з Б. належала Цэцыліі Рэнаце, жонцы Уладзіслава IV. У кастр. 1648 Б. захоплены казацкім загонам атамана Паддубскага пры дапамозе жыхароў-паўстанцаў, шляхта перабіта, а староста ўтоплены ў Бярэзіне. У лют. 1649 вызвалены войскам гетмана Я. Радзівіла, які жорстка распраўіўся з казакамі (гл. *Бабруйска абарона 1649*). У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у лют. 1655 казакі наказнога гетмана І.Залатарэнкі захапілі і спалілі Б., жыхары знішчаны. Згодна *Гадзяцкага дагавора 1658* казацкі палкоўнік І.Нячай атрымаў Б. у пажыццёвае валоданне. У 1665 укр. казакі зноў захапілі і разбурылі Б. З 2-й пал. 17 ст. Б. называлі мястэчкам, у 1671 было 170 дамоў. У *Паўночную вайну 1700—21* моцна пацярпеў, калі ў 1708 праз яго праходзілі шведскія і рас. войскі. У пач. 1790-х г. у Б. 1884 ж., 314 дамоў. Пасля 1772 у Б. з Рэчыцы перанесены пасяджэнні павятовых судоў і соймікаў, перавезены архівы Рэчыцкага пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Центры городов Белоруссии в XVI—первой половине XIX в.// Архитектурное наследство. М., 1983. Вып. 31; Старажытнасці Бабруйшчыны. Бабруйск, 1998.

***Валерый Грынявецкі.***

**Бабруйска абарона 1649**, абарона Бабруйска казакамі і гараджанамі ад войск феадалаў у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. У кастр. 1648 жыхары Бабруйска паўсталі і разам з казацкім загонам (атрадам) Паддубскага перабілі заможную шляхту, утапілі ў Бярэзіне бабруйскага старасту. У канцы снежня 1648 каля сцен горада быў разбіты атрад харужага ВКЛ Я.Паца, пасланы на падаўленне паўстання. У пачатку студз. 1649 да Бабруйска падышлі 1,5 тыс. наёмнікаў і шляхты на чале з польным пісарам ВКЛ У.Валовічам. 4 тыдні паўстанцы адбівалі атакі шляхецкіх войск. На дапамогу Валовічу да Бабруйска падышоў атрад польнага гетмана ВКЛ Я.*Радзівіла*. Паўстанцы адхілілі яго прапанову пра капітуляцыю. Радзівіл не адважыўся пачаць штурм сваімі сіламі і папрасіў дапамогі ў караля. Сваё войска ён размясціў за Бярэзінай. Скарыстаўшы рознагалоссі сярод паўстанцаў, ён схіліў на свой бок багатых мяшчан, гандляроў, рамеснікаў, духавенства. У ноч на 22.2.1649 змоўшчыкі адчынілі гар. браму і з сем'ямі пакінулі горад. Войска Радзівіла ўварвалася ў горад і ўчыніла крывавую расправу. Паддубскі з невял. групай казакоў зачыніўся ў драўлянай вежы і доўга адбіваўся, але быў схоплены і пасаджаны на кол. За час баёў было забіта некалькі тысяч гараджан і казакоў.

*Літ.*: Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 3. СПб., 1861.

**Бабруйская воласць**, Бабруйскае староства, дзяржаўнае ўладанне ў ВКЛ, якое займала большыя часткі сучасных Бабруйскага, Кіраўскага і прылеглыя да іх часткі Жлобінскага і Светлагорскага р-наў. Напачатку воласць была, відаць, у *Свіслацкім княстве*, якое пасля ўваходжання ў ВКЛ у сярэдзіне 14 ст. было падзелена на 2 часткі паміж віленскім кн. Альгердам і яго братам, троцкім кн. Кейстутам. Гэты падзел захаваўся і пры ўтварэнні ў 1413 Віленскага і Троцкага ваяводстваў: даход з Б.в. дзяліўся паміж імі пароўну. Воласцю кіраваў намеснік, якога прызначаў вял. князь звычайна з ліку буйной шляхты (Глябовічаў, Давойнаў, Нацаў, Тышкевічаў). У 1560 у Б.в., як і ў інш. дзярж. валасцях, праведзена адм. рэформа — замест стараж. адзінак падаткаабкладання (дымоў) уведзены *службы*. На працягу 15—16 ст. некалькі сёл воласці (Дурынічы, Кісялевічы, Рыння, Сцяпы, Татаркавічы, Хімы) былі падараваны вял. князем розным феадалам. У 1565 тэр. Б.в. ўключана ў Рэчыцкі пав. Менскага ваяв., аднак традыц. падзел на віленскую і троцкую «палавіцы» згадваецца яшчэ ў дакументах *валочнай памеры*, якая праводзілася тут у 1611—



39. Паводле гэтых дакументаў, віленская і троцкая «палавіцы» налічвалі да рэформы крыху больш за 100 службаў кожная. Асобнае дзярж. уладанне ўтвараў маёнтак Любонічы з сёламі Белевічы, Казулічы, Кострычы, Морхавічы, Падрэчча, Сяргеевічы, Уласавічы. На віленскай «палавіцы» найбуйнейшымі сёламі былі Зелянковічы, Кабылічы, Коўчыцы, Коўцічы, Старыя і Новыя Казловічы, на троцкай — Аўсімавічы, Варатынь, Вітлін, Плёса, Сякерычы. У выніку валочнай памеры замест службаў было намерана 475 аселых валок (у т.л. 80 у маёнтку Любонічы), на якіх месціліся каля 1 тыс. сялянскіх двароў. Акрамя таго, у Бабруйску было 409 мяшчанскіх дамоў і ў прадмесцях 286 гаспадарак агароднікаў. У 17—18 ст. намеснікі (дзяржаўцы) зваліся старастамі, а сама воласць — староствам. У 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. на пасаду бабруйскага старасты прызначаліся прадстаўнікі роду Трызнаў, потым — інш. буйныя феадалы, у т.л. Радзівілы. Пасля далучэння да Рас. імперыі (1793) са складу староства ў якасці павятовага цэнтра вылучаны Бабруйск, а само яно паступова падзялілася на некалькі асобных маёнткаў.

*Літ.*: Акты Виленской археографической комиссии. Вильна, 1898. Т. 25. С. 114—330; Кернажыцкі К. Аграрная рэформа у Бабруйскім старостве і экономічнае становішча яго насельніцтва з XVII да паловы XIX стал.: (Фармаваньне капіталізму). Мн., 1931.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Бабруйскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. у *Бабруйску* на правым беразе р. Бярэзіна непадалёку ад сутоку з р. Бабруйка. Займаў вяршыню пагорка берагавога плато памерам 53 × 66 м, якому пазней надалі чатырохвугольную форму. З боку р. Бярэзіна замак быў ахаваны высокім і стромкім схілам, з астатніх бакоў умацаваны абарончым ровам шырынёй да 15 м. Паводле «Уставы» 1626 замак абнесены земляным валам, на якім стаялі абарончыя драўляныя вежы і сцены — дубовы «штакет». Згадваюцца 2 вежы з абламамі, уязная вежа-брама. Магчыма, з боку р. Бярэзіны таксама былі вежы. З агнястрэльнай зброі ў Б.з. «Устава» 1626 называе 2 жал. гарматы, 3 серпанціны, 43 гакаўніцы, 11 ручніц губчастых, запасы жал. і каменных ядраў, алавяныя кулі да гакаўніц, порах, салетру, серу, волава. Інвентар 1671 паведамляе пра драўляны мост, перакінуты цераз абарончы роў да 2-яруснай уязной брамы. Яе ніжні прамавугольны ярус меў праезд, які зачыняўся падвойнымі варотамі са спец. «форткаю» для пешаходаў і сістэмай жал. запораў. Верхні ярус у выглядзе вежы на дзесяцерыку меў 3 гакаўнічыя байніцы «з усім неабходным для стральбы». Дзве 2-ярусныя вежы, вельмі падобныя паміж сабою, крытыя драніцамі і з «дольным схованьем», былі абмазаны глінаю з проціпажарнымі мэтамі і для прадухілення гніення. Гэтыя 3 вузлы абароны размяшчаліся з напольнага боку ад горада. З боку р. Бярэзіна замак ахоўвалі 2 рэдуты — драўляна-земляныя збудаванні бастыённага тыпу, перакрытыя гонтавымі стрэшкамі. Рэдуты трымалі пад абстрэлам пераправу цераз Бярэзіну і абаранялі подступы да гар. брамы Падольнай, якая ўваходзіла ў склад *бабруйскіх гарадскіх умацаванняў*. Паміж вежамі і рэдутамі стаялі рубленыя сцены-гародні з тоўстых дубовых бярвён з галерэяй насценнага бою — бланкаваннем. На замкавым дзядзінцы размяшчаўся мураваны цэйхгаўз, дзе знаходзіліся 5 спраўных гакаўніц і 450 гакаўнічных стваloў. Паводле інвентара 1684 планіровачная структура Б.з. не змянілася, але зброі ў цэйхгаўзе паменшала: згадваюцца 8 гакаўніц з запасам жал. куль. Інвентар 1692 сведчыць пра паступовы заняпад і разбурэнне ўмацаванняў замка, які перастаў існаваць у канцы 18 ст. Аднак на плане Бабруйска 1794 яго сляды яшчэ выразна захаваліся. Замак даглядала і рамантавала насельніцтва горада і *Бабруйскай воласці*. Мяшчане абавязаны былі будаваць 2 замкавыя вежы «з кгрунту аж до обламку» і рэгулярна абмазваць глінаю; паводле загаду замкавай адміністрацыі мусілі выстаўляць у брамах вартавых, выдзяляць і пасылаць за свае грошы для пастаяннай круглагадовай «сторожы» ад крымскіх татараў спец. групу конных воінаў у Рэчыцу, Мазыр і Лоеў, каб мець аператыўную «ведомость о постороннем неприятеле». Сяляне воласці неслі старажоўшчыну ў замку і фальварку 4 тыдні за год (2 вясною і 2 восенню), хадзілі ў Б.з. «на замкавую патрэбу» для рамонту ўмацаванняў. Разам з мяшчанамі яны здавалі грошы «на сторожу» ад татараў.

*Літ.*: Акты Виленской археографической комиссии. Вильна, 1898. Т. 25. С. 122—137; Акты Литовско-Русского государства. М., 1899. Вып. 1. С. 228; Довнар-Запольский М.В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 681—682.

***Міхась Ткачоў.***

**бабруйскія гарадскія ўмацаванні**, комплекс драўляна-земляных умацаванняў у выглядзе абарончага вала, драўляных сцен, паркана і вежаў, якія ахоўвалі кварталы *Бабруйска* ў 14—18 ст. Агульная даўжыня лініі ўмацаванняў больш за 3 км. Уяўлялі сабой трохвугольнік, утвораны р. Бярэзіна, Бабруйка і ручаём Дняпрэц, з 3 умацаванні дадаткова прыкрываў вял. стаў, які ўтвараўся плацінай вадзяного млына на р. Бабруйка. Уезд і выезд з горада ажыццяўляўся праз 4 брамы. На Пд, пад Замкавай гарой знаходзілася Падпольная брама, якая вяла на бераг Бярэзіны да паромнай пераправы і далей у Магілёў. Вышэй па цячэнні Бярэзіны на адлегласці 26 шнуроў (1274 м) стаяла Свіслацкая брама, якая выводзіла на дарогу ў Свіслач. У паўн.-зах. частцы Бабруйска размяшчалася Кісялёўская брама. Прудовая брама адкрывала дарогу праз плаціну на Бабруйцы да зарэчных гарадскіх валок з гародамі, сенажацямі і садамі. Гараджане разам з выбранымі ад воласці сялянамі неслі ў гар. брамах начную варту, на ўвесь тыдзень выдзялялі «на голошение» спец. групу «сторожей-кликунов», якія «кликали», каб усе былі пільныя да агню. Каб прадухіліць непажаданыя нечаканасці як «от своих свовольных куп людей, так и от постороннего (упаси, Боже!) неприятеля, прыкладом иных местечек», мяшчане ставілі ўпоперак гар. вуліц «кабыліны», якімі запіраўся свабодны рух. Колькасць вежаў, што стаялі ў лініі гар. абароны, дакладна невядома, але, улічваючы перыметр ахоўных збудаванняў, можна меркаваць, што іх было каля 10. На гравюры 17 ст. паказана, што яны былі 2-павярховыя 4—6-вугольныя ў плане. Драўляныя брамы мелі абламы, вянчаліся шпілямі з флюгерамі-ветранікамі. Сцены гародні мелі байніцы для стральбы з агнястрэльнай зброі. Б.г.ў. значна пацярпелі ў час *Антыфеадальнай вайны 1648—51* і *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Але яны хутка былі адбудаваны. Паводле інвентароў горада за 1671 і 1684 сцены, вежы і брамы знаходзіліся ў спраўным стане. Як сведчаць гіст. дакументы, усімі ваенна-буд. работамі ў Бабруйску кіраваў падвойскі, на ім ляжаў таксама абавязак

ведаць старажоўшчынай у замку і на гар. брамах і «обычным в тех краях глашаньем». Падобныя функцыі выконвалі і валасныя старцы, якія кіравалі сялянамі воласці ў час догляду паркану і «часу вселяких гвалтов и небеспечности». Гар. ўмацаванні пачалі разбурацца з канца 17 ст. і зніклі пасля ўключэння Бабруйска ў склад Рас. імперыі ў 1793.

*Літ.*: Акты Виленской археографической комиссии. Вильна, 1898. Т.25. С. 126, 135—137; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России... Спб., 1861. Т. 3. С. 295, 298; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 497.

***Міхась Ткачоў.***

**Бабрыковіч-Капет-Аняхожскі** Іосіф, гл. *Іосіф*.

**бабылі**, катэгорыя беззямельных сялян у ВКЛ з 16 ст. Займаліся рамёствамі, дробнымі промысламі, наймаліся на розныя работы да феадалаў і заможных сялян. Некаторыя Б. мелі сваю хату, часам жывёлу, агарод, сенажаць; некаторыя нічога не мелі, жылі ў чужых хатах, займаючы кут ці камору або нават жабравалі. Асн. павіннасцю Б. была бабыльшчына — грашовы чынш, памер якога залежаў ад заможнасці; тыя, што мелі свае хаты, плацілі падымнае (да 4 злотых у год). Б., якія выконвалі розныя работы ў двары феадала (прыбіралі двор, гасп. памяшканні, агароджвалі сады і фальварковыя пасевы, дапамагалі агароднікам, выконвалі абавязкі пасыльных, вартаўнікоў і інш.), вызваляліся ад грашовых пабораў. Тэрмін «Б.» быў пашыраны пераважна ва ўсх. раёнах Беларусі, у зах. раёнах іх часцей называлі *кутнікамі* ці каморнікамі. У асобных уладаннях і вёсках Б. складалі да 45 % насельніцтва. Жылі яны таксама ў гарадах і мястэчках.

***Васіль Мялешка.***

**Багавіціны**, Багавіцінавічы, шляхецкі род герба «Пелікан». Родапачынальнік Багавіцін быў у 1431 сярод баяр ВКЛ, што паручыліся польскаму каралю Ягайлу за палонных літвінаў; у сярэдзіне 15 ст. атрымаў ад вял. князя ВКЛ Казіміра с. Казярады на Берасцейшчыне. У 16 ст. ўзніклі галіны роду: Багавіціны-Казярадскія, Багавіціны-Дабранізкія, Багавіціны-Калясніцкія, Багавіціны-Куценскія, Багавіціны-Шумскія і Багавіціны-Шумбарскія. Найб. вядомыя:

Леў Багавіцінавіч (?—пасля 1505), сын Багавіціна. Каля 1487 пачаў працаваць у канцыляры ВКЛ. Пісар ВКЛ у 1487—1495, 1502—05, ключнік берасцейскі ў 1487—95, чашнік ВКЛ у 1501—05, намеснік (дзяржаўца) крамянецкі з 1502. Ад вял. князя ВКЛ Аляксандра ў 1497 атрымаў маёнткі Шчураўцы і Фамінцы на Брацлаўшчыне, у 1501 — с. Ворцель (Дакудава) у Берасцейскім пав., якое ператварыў у горад з магдэбургскім правам. Валодаў таксама маёнткамі Радванічы ў Берасцейскім пав., Навасёлкі і Неплі на Падляшшы, сёламі каля Брацлава.

Богуш Багавіцінавіч (?—пасля 1505), сын Багавіціна. Гаспадарскі дваранін у 1487, намеснік пералайскі ў 1503—05. Меў маёнткі Шумск, Шумбар і інш на Валыні, Нарвідзішкі ў Віленскім ваяв., Казярады.

Пётр Багавіцінавіч (?—да 1523), сын Багавіціна. Валодаў маёнткамі Тур'я і Расолаўцы на Валыні.

Богуш Міхал (?—1530), сын Богуша Багавіцінавіча. Дзяк канцыляры ВКЛ у 1499—1503, пісар ВКЛ з 1499, адначасова падскарбі земскі ВКЛ у 1509 і з 1520, маршалак гаспадарскі з 1510; намеснік (дзяржаўца) пералайскі ў 1500—05, жыжморскі ў 1508—09, доўгаўскі ў 1508—18, камянецкі з 1518, слонімскі з 1522, гараднічы троцкі ў 1506—07. У 1509 удзельнічаў у польскім паходзе на Малдову, у пасольстве ў Маскву, якую наведаў як пасол яшчэ ў 1517—18, 1520, 1522, 1526. Удзельнік *Венскага кангрэса 1515*. У 1518 прадстаўнік ВКЛ у пасольстве Э.*Цёлка* на германскі рэйхстаг у Аўгсбургу. Прадстаўнік Жыгімонта Старога на Віленскім сойме 1520. У 1513 разам з братамі атрымаў велікакняжацкае пацвярджэнне на маёнткі, якія былі дадзены іх продкам вял. князямі Вітаўтам і Казімірам. Валодаў маёнткамі Прамезі ў Троцкім пав., Азярніца і Блізна ў Слонімскім пав., Славяцічы, Даўгаброды, Сямацічы, Яблычна ў Берасцейскім пав., Орля, Тапчыкалы, Кашалі, Вярвенкі на Падляшшы, Берасцечка, Жукаў, Свінярын на Валыні і інш. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 64 коннікаў. У шлюбе з Федзяй, дачкой кн. А.Сангушкі, меў дачок Ганну (жонка С.Тэнчынскага), Фядору (жонка пачаргова кн. Ф.Пронскага, ваяводы кіеўскага, М.Тшэбухоўскага, кашталяна гнезненскага, і М.Дзялынскага, падкаморага холмскага) і Ульяну.

Война Богушавіч (?—?), сын Богуша Багавіцінавіча. Валодаў маёнткамі Шумск і Казярады. Меў сыноў Тэадора і Яна.

Іван Богушавіч (?—да 24.5.1551), сын Богуша Багавіцінавіча. Стараста карнялаўскі ў 1527, дарагічынскі ў 1542, маршалак гаспадарскі з 1546, дзяржаўца даўгяльскі ў 1546, стараста крамянецкі ў 1548. Пасол у Маскву ў 1529. Меў маёнткі Шумск, Казярады, Душава, Вялешын, Ворцель (апошні набыў у 1526 у стрыечнага брата Багавіціна Львовіча). У 1528 ставіў у войска ВКЛ 15 коннікаў. Яго сын Стафан ад маёнтка Шумск зваўся Шумскім, а Бенядзікт — Шумскім і Казярадскім (Шумск, Казярады і Ворцель у 1573 падзяліў з братам Міхалам, маршалкам берасцейскім).

Багавіцін Пятровіч (?—пасля 1528), сын Пятра Багавіцінавіча. Крамянецкі гараднічы, войскі, мастаўнічы ў 1528. У 1523 прадаў маёнтак Расолаўцы князям Астрожскім. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 14 коней. Ён і яго нашчадкі зваліся Багавіцінамі-Шумбарскімі. Відаць, яго сынамі былі браты Павел і Міхал, што жылі ў сярэдзіне 16 ст.

Вацлаў Паўлавіч (?—пасля 1596), сын Паўла Багавіцінавіча. Харужы валынскі ў 1593—96. У 1585 падзяліў Казярады з братам Янам і стрыечным братам Мікалаем Міхайлавічам. Быў жанаты з княжной Соф'яй Чартарыйскай. У 1595 купіў у сваіх шваграў Ю. і М.Чартарыйскіх маёнтак Сталавічы ў Навагародскім пав., які ў 1596 прадаў М.К.Радзівілу Сіротку.

***Валерый Пазднякоў.***

**Багамолец** Францішак (29.1.1720, Віцебскае ваяв.—24.4.1784), драматург, публіцыст, выдавец, паэт. З бел. шляхецкага роду, брат Я.*Багамольца*. З 1737 езуіт,



Ф.**Багамолец**.

з 1749 ксёндз. Вучыўся ў Вільні, Рыме (1747—49). Выкладаў у Віленскай акадэміі. З 1751 у Варшаве, выкладаў у «Калегіум нобіліум», кіраваў там тэатрам, узначальваў б-ку. Пракуратар Мазавецкай правінцыі езуіцкага ордэна ў 1765—66 і 1771—73. Згуртаваў вакол сябе кола прыхільнікаў мастацтваў і рэформ, т.зв. «кузню Багамольца». У 1760-х г. рэдагаваў і выдаваў шэраг газет, у 1765—68 разам з І.Красіцкім узначальваў рэдакцыю час. «Monitor» («Часопіс»). З 1762 кіраваў езуіцкай друкарняй (пасля 1773 каралеўская). Лічыцца заснавальнікам сучаснай польскай камедыі. У камедыях «Шлюб з календара», «Добры пан», «Чары», «Хітры гаспадар», «Модныя кавалеры», «Старушкевіч» і інш. з пазіцый памяркоўнага асветніцтва крытыкаваў норавы ў Рэчы Паспалітай, заганы шляхты. Выдаваў пераклады твораў антычных пісьменнікаў, Я.Каханоўскага, С.Ажахоўскага, М.К.Сарбеўскага і інш. У серыі «Збор польскіх гісторыкаў» («Dzejopisy polskie», т. 1—4, 1764—88) апублікаваў хронікі М.Бельскага, М.Стрыйкоўскага, М.Кромера, А.Гваньіні. Пераклаў на польск. мову кн. «Розныя лісты... з Азіі, Афрыкі і Амерыкі ад місіянераў Таварыства Ісуса» («Listy różne... z Azji, Afryki i Ameryki od misijonarzy S.J.», Варшава, 1767). Збіраў бел. прыказкі і прымаўкі, якімі хацеў папоўніць зборнік С.Рысінскага.

*Літ*: Kryda B. Szkolna i literacka działalnosc Franciszka Bohomolca. Wrocław, 1979.

***Валерый Пазднякоў.***

**Багамолец** Ян Хрызастом (28.1.1724, Віцебскае ваяв.—17.2.1795), каталіцкі рэлігійны дзеяч, філосаф. Брат Ф.*Багамольца*. З 1739 езуіт, з 1751 ксёндз. У 1742—45 вучыўся ў Віленскай акадэміі, пасля ў Варшаве і Празе. У 1753—54 нам. кіраўніка «Калегіум нобіліум» у Вільні. У 1757—65 і 1767—73 выкладаў у варшаўскім «Калегіум нобіліум». Пасля скасавання ордэна езуітаў прыватны настаўнік, з 1775 пробашч у Празе пад Варшавай, дзе заснаваў парафіяльную школу. Дбаў пра развіццё асветы, выкрываў забабоны ў кнігах: «Водпаведзь на абвінавачванні адносна прызначэння Божага» («Odpowiedź na zarzuty względem przeznaczenia Boskiego», Варшава, 1766), «Прыкмета злая ці добрая каметы 1769 і 1770 года» («Prognistyk zły czy dobry komety roku 1769 i 1770», Варшава, 1770), «Д'ябал у сваёй пастаці, або Пра крывасмокаў, змовы, варажбітаў, лясы, чары» («Diabel w swojej postaci albo o upiorach, gusłach, wróżkach, lasach, czarach», Варшава, 1772, 2 выд. 1773), «Адказ ад цэнзара кніг пра натуру і моц дэманаў» («Responsio od censuram libri de natura et potestate daemonis», Варшава, 1775).

***Валерый Пазднякоў.***

**Багдзевіч** (Bohdziewicz) Пётр [10(23).3.1896, С.-Пецярбург—4.8.1982], польскі архітэктар, гісторык мастацтва. Д-р габілітаваны (1946), праф. надзвычайны (1958). З бел. шляхецкага роду. Вучыўся ў Ін-це цывільных інжынераў у Пецярбургу (1914—17), Астраханскім ун-це (1918—21), Варшаўскай Палітэхніцы (1922—29). У 1929—33 інжынер архітэктурнага факультэта Варшаўскай Палітэхнікі. З 1937 у Вільні, бібліятэкар факультэта прыгожых мастацтваў і выкладчык Віленскага ун-та, сакратар секцыі гісторыі мастацтва Т-ва аматараў навук. У 1940—44 працаваў у Мастацкім музеі, у 1944—45 інспектар аховы помнікаў мастацтва. З 1945 у Варшаве, працаваў па аднаўленні старой забудовы горада, у 1948—57 у Рэстаўрацыйным упраўленні Старога Места Варшавы. У 1946—66 выкладаў у Каталіцкім ун-це ў Любліне. Працы па гісторыі архітэктуры і мастацтва ВКЛ і Польшчы эпохі барока. Правёў інвентарызацыю і зрабіў навук. апісанне шматлікіх помнікаў архітэктуры, у т.л. касцёлаў і цэркваў у Глыбокім, Беразвеччы, Удзелі, Друі, Мосары, Лужках, Германавічах, Дзісне, Мамаях, Івянцы, Вільні.

*Тв.*: O istocie i genezie baroku wileńskiego z drugiej i trzeciej ćwierci XVIII wieku // Prace i materiały sprawozdawcze sekcji historii sztuki TPN w Wilnie. Wilno, 1938/1939. T. 3; Francesko Placidi architekt-Włoch XVIII-go stulecia w Polsce i związki jego sztuki z barokiem wileńskim w świetle nowych danych archwalnych i metody analitycznej // Там жа; Zagadnienie formy w architekturze baroku. Lublin, 1961; O dwu kościołach gotyckich św. Jana w Wilnie // Roczniki humanistyczne. 1965. Z. 4; Kościoł pobazyliański w Berezweczu // Biuletyn historii sztuki. 1983. № 3—4; Materiały do dziejów budowy kościoła karmelitów trzewiczkowych p.w. Wszystkich Świętych w Wilnie // Там жа. 1984. № 4.

*Літ.*: Kowalczyk J. Piotr Bohdziewicz (1896—1982) // Biuletyn historii sztuki. 1983. № 3—4 (змешчана бібліяграфія прац Б.); Яго ж. Ołtarze wileńskie w badaniach Piotra Bohdziewicza // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7. Z. 4 (28).

***Валерый Пазднякоў.***

**«Багорыя»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася каля 30 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Багамольцы, Валовічы, Куранецкія, Макраноўскія, Скатніцкія. У чырвоным полі 2 сярэбраныя наканечнікі стрэл вастрыямі ўверх і ўніз. Клейнод — над прылбіцай з каронай паўлін з распушчаным хвастом са зламанай сярэбранай стралой вастрыём уверх. Існуе варыянт герба, дзе ў зялёным полі наканечнікі стрэл злучаны паміж сабой; клейнод — 3 страусавыя пёры. Вядомы з 1-й пал. 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

***Валерый Пазднякоў.***



Герб **«Багорыя»**.



В.**Багуслаўскі**. Карціна Ю.Рэйхана. 1798.

**Багуслаўскі** (Bogusławski) Войцех Рамуальд (9.4.1757, маёнтак Глінна каля Познані—23.7.1829), польскі рэжысёр, акцёр драмы і оперы (бас), драматург, педагог, тэатр. дзеяч. Заснавальнік



прафес. нац. драм. і муз. т-ра. Вучыўся ў школе Навадворскіх у Кракаве (1770—73). У 1775—78 служыў у палку пешай гвардыі ВКЛ у Варшаве. У 1783—85, 1790—94, 1799—1814 дырэктар трупы «Нацыянальныя акцёры» (цяпер Нац. тэатр) у Варшаве, дзе ставіў творы замежных (У.Шэкспір, Мальер, П.Бамаршэ) і польск. драматургаў («Вяртанне пасла» Ю.Нямцэвіча, 1791), а таксама свае п'есы («Генрых VI на паляванні», 1792, і інш.). У 1784 гастраліраваў у Гародні ў час сойма. У 1785—90 арганізатар і кіраўнік тэатра ў Вільні, з якім гастраліраваў па Польшчы, Галіцыі, Беларусі. Удзельнічаў у паўстанні 1794. З 1811 выкладаў у арганізаванай ім драм. школе ў Варшаве. Аўтар лібрэта і пастаноўшчык першай нац. камічнай оперы «Уяўны цуд, або Кракаўцы і горцы» Я.Стэфані (1794). Выступаў у драм. (Кароль Лір, Гамлет у аднайм. п'есах Шэкспіра) і оперных (Аксур у аднайм. оперы А.Сальеры, Бардас ва «Уяўны цуд...») спектаклях.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980. С. 250; Raszewski Z. Bogusławski. 2 wyd. Warszawa, 1982.

**Багуслаўскі** Юзаф Канстанцін (9.12.1754, Віленскае ваяв.—14.3.1819), рэлігійны і грамадскі дзеяч, філосаф, правазнавец, тэолаг, калекцыянер. Д-р тэалогіі (1788). Вучыўся ў піярскім калегіуме у Злочаве, Падалінцы, Жэшаве, Варшаве і Кракаве. У 1771 уступіў у ордэн піяраў і выкладаў у яго школах у Міжрэччы на Валыні і ў Варшаве. З 1789 працаваў у Гал. школе ВКЛ: праф. кафедры багаслоўя і гісторыі царквы, дэкан ф-та маральных навук, цэнзар кніг, капелан. Пасля выхаду з ордэна піяраў пробашч у Падбярэззі каля Вільні, канонік інфлянцкі. З 1785 чл. масонскай ложы ў Варшаве, пасля ў Вільні. Склаў зборнік біяграфій дзярж. дзеячаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай (Варшава, 1788). Сабраў больш за 200 партрэтаў знакамітых людзей краю. Пабудаваў для гэтай калекцыі асобны дом у Вільні (пасля смерці Б. калекцыя распрададзена з публічных таргоў). Аўтар кн. «Пра дасканалае заканадаўства» («O doskonałym prawodawstwie», Варшава, 1786), у якой поруч з натуральным правам як асновай справядлівага заканадаўства разглядаў чалавека як адзінства двух субстанцый — матэрыяльнай і духоўнай. Лічыў, што чым больш будзе адукаваны народ, тым больш дасканалымі будуць яго законы. Абгрунтоўваў неабходнасць канстытуцыйных форм кіравання, крытыкаваў самадзяржаўе і арыстакратычную алігархію. Аўтар вершаў, казанняў, прамоў, тэалагічных твораў.

*Тв.*: Życie sławnych Polaków krótko zebrane. 2 wyd. T. 1—2. Wilno, 1814.

***Энгельс Дарашэвіч.***

**Багуцкая** (Bogucka) Марыя (н. 1.6.1929, Варшава), польскі гісторык. Чл.-кар. Польскай АН у Кракаве (1995). Д-р габілітаваны (1961), праф. звычайны (1981). Скончыла Варшаўскі ун-т (1951). З 1953 працуе ў Ін-це гісторыі Польскай АН у Варшаве (з 1976 кіраўнік аддзела гісторыі старапольскай культуры, з 1990 — новай гісторыі). Адначасова гал. рэдактар часопісаў «Mówią wieki» («Гавораць стагоддзі», 1958—76), «Studia Maritima» (1978—81), «Acta Poloniae Historica» (з 1978). Даследуе гісторыю Польшчы і Еўропы 15—18 ст., у т.л. праблемы гасп. і фін. адносін, гандлю ў балтыйскім рэгіёне, гісторыю урбанізацыі, менталітэту, гендэрных адносін, мецэнацтва. Адна са стваральнікаў і кіраўнікоў шматлікіх міжнар. навук. т-ваў.

*Тв.*: Gdańsk jako ośrodek produkcyjny w XIV—XVII w. Warszawa, 1962; Życie codzienne w Gdańsku w XV—XVII w. Warszawa, 1967; Nicolas Copernicus: The country and times. Warszawa, 1973; Dawna Polska. Warszawa, 1973 (4 wyd. 1998); Kazimierz Jagiellończyk i jego czasy. Warszawa, 1981 (2 wyd. 1998); Dzieje kultury polskiej do r. 1918. Warszawa, 1987 (2 wyd. 1991); Bona Sforza. Warszawa, 1989; Anna Jagiellonka. Warszawa, 1994; Staropolskie obyczaje XVI—XVII w. Warszawa, 1994; The lost world of Sarmatians: Customs as regulator of polish social life in the early modern times. Warszawa, 1996; Żyć w dawnym Gdańsku. Warszawa, 1997; Białogłowa w dawnej Polsce: Kobieta w społeczeństwie polskim w XVI—XVIII w. na tle porównawczym. Warszawa, 1998; Historia Polski do 1864 roku. Wrocław etc., 1999; Baltic commerce and urban society, 1500—1700: Gdańsk/Danzig and its Polish context. Aldershot, 2003; Women in Early Modern Polish Society Against the European Background. Aldershot, 2004.

**Багушэвіч** (Багушэвіч-Мінкоўскі) Станіслаў (1751, маёнтак Літва, Менскае ваяв.—1819), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Вучыўся ў Віленскім «Калегіум нобіліум». З 1773 ротмістр Менскага ваяв., ад якога быў абраны паслом на *сойм 1773—75*. Разам з пасламі ад Навагародскага пав. Т.*Рэйтанам* і С.*Корсакам* павёў на сойме рашучую барацьбу з А.Панінскім, які імкнуўся абвясціць соймавую канфедэрацыю, каб большасцю галасоў легалізаваць 1-ы падзел Рэчы Паспалітай. На некалькі дзён паслам ад ВКЛ удалося паралізаваць сойм. Ход барацьбы апісаў у рукапісным «Лісце... да прасветлага ваяводства Менскага» («List... do Prześw. Województwa Mińskiego» і брашуры «Адозва да сканфедэраваных саймуючых станаў» («Odezwa do skonfederowanych sejmujących Stanów» (падпісана крыптанімам L.S.). Пасля таго, як канфедэрацыя на сойме была ўтворана, адмовіўся ад працы ў незаконным сойме. Пазней палкоўнік каронная войска і менскі земскі суддзя, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1784 і 1792. Пахаваны ў Івянецкім касцёле францысканцаў.

*Літ.*: Konczyńska W. Rejtan, Korsak i Bohuszewicz na sejmie 1773 roku: Materjały do monografji posła nowogródzkiego. Wilno, 1935; Chojecki R. Patriotyczna opozycja na sejmie 1773 r. // Kwartalnik historyczny. 1972. № 3; Michalski J. Rejtan i dylematy polaków w dobie pierwszego rozbioru // Там жа. 1986. № 4.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бадо** (Baudeau) Нікаля (25.4.1730, Францыя—1792), французскі эканаміст, фізіякрат. Прыняў духоўны сан і манаства. З 1765 рэдагаваў у Парыжы грамадска-эканамічны час. «Ephémérides du citoyen» («Грамадзянскія эфемерыды», у 1774—76 «Nouvelles Ephémérides», «Новыя эфемерыды»), дзе змяшчаў артыкулы пра школьную справу ў Рэчы Паспалітай, станоўча ацэньваў рэформы караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Сакратар Эканамічнага т-ва. Па запрашэнні віленскага біскупа І.Я.*Масальскага* ў ліст. 1768 прыехаў у ВКЛ для азнаямлення з эканомікай і асветай краю. Атрымаў ад яго пасаду абата аўгусцінскага кляштара ў Відзінішках Віленскага ваяв. У лютым 1769 па даручэнні Масальскага выехаў у Пецярбург агітаваць за ўстанаўленне згоды паміж Францыяй і Расіяй, каб спрыяць заключэнню ўнутранага міру ў Рэчы Паспалітай (Францыя падтрымлівала *Барскую канфедэрацыю*, а Расія — яе праціўнікаў). Не дамогся поспеху і ў ліп. 1769 выехаў у ВКЛ, а восенню — у Францыю. У 1771 выдаў у Парыжу кнігі «Нарысы пра сучасны стан Польшчы і прычыны яе бедаў» («Lettres sur l'etat actuel de la Pologne, et sur l'origine de ses malheurs»), «Эканамічныя погляды

грамадзян на Рэч Паспалітую» («Avis économiques aux citoyens éclairés de la République de Pologne»). Для Масальскага выпрацаваў праект устанаўлення міра ў Рэчы Паспалітай. У 1773 запрошаны ў Варшаву на пасаду сакратара Адукацыйнай камісіі і дырэктара запраектаванай акадэміі, аднак прапанаваў замест сябе інш. кандыдатуру. У 1774 прыняў абавязкі агента Адукацыйнай камісіі ў Францыі і заставаўся ім да 1779, быў пасрэднікам паміж Т-вам элементарных кніг і франц. вучонымі. У 1773 прапанаваў Станіславу Аўгусту Панятоўскаму арганізаваць на Украіне эксперыментальную «дзяржаву» з сельскім ладам на падставе дактрын фізіякратаў.

*Валерый Пазднякоў.*

**Бажымоўскія**, шляхецкі род герба «Бяліна», дзеячы кальвініцкай царквы ў ВКЛ. Найб. вядомыя:

Ян (1610—73), сын Адама, які перасяліўся ў ВКЛ з Польшчы. Вучыўся ў школе пры кальвінскім зборы ў Шыдлаве Расейнскага пав., з 1628 у Слуцкай гімназіі. З 1631 катэхіст пры Кейданскім зборы. У 1636—38 вучыўся ў Лейдэне і Франекеры (Галандыя). Пасля вяртання міністр і прапаведнік збору ў Новым Месце. У 1653 узначаліў Жамойцкі дыстрыкт кальвініцкай царквы, адначасова у 1665 — Віленскі. Актыўна ўдзельнічаў у сінодах 1650—72. Уводзіў у кальвініцкае богаслужэнне літоўскую мову, забяспечваў зборы літоўскімі канцыяналамі і малітоўнікамі. Перакладаў на літоўскую мову рэліг. песні і фрагменты катэхізіса, пачаў перакладаць Біблію (рукапіс загінуў каля 1681 у Біржах). Яго арыгінальныя творы і пераклады сабраны ў выданні «Кніга набажэнства хрысціянскага ў гонар адзінай Святой Тройцы» («Kniga Nabożnistes Krigscioniszkos Ant Garbos Diewny Traycey Szwentoy Wienatijam», Кейданы, 1653, накладам Я.Радзівіла).

Ян (?—1687), сын Яна. Пасля сканчэння Кейданскай гімназіі ў 1667 прызначаны катэхістам, пасля прапаведнік у Любчы і пры двары навагародскага харужага С.Францкевіча-Радзімінскага. У 1670—81 рэктар Слуцкай гімназіі і слуцкі прапаведнік. Віленскі прапаведнік з 1681 і кансеньёр з 1685. Пасля смерці бацькі працягваў перакладаць на літоўскую мову Біблію. Меў 7 сыноў, большасць з якіх сталі віднымі кальвініцкімі дзеячамі.

Ян (да 1674—?), сын Яна. Вучыўся ў Франкфурце, Караляўцы і Лейдэне (1698). З 1700 рэктар Слуцкай гімназіі.

Даніэль (1674, мяст. Койданава—?), сын Яна. Вучыўся ў Берліне, Караляўцы і Франкфурце (1695). У 1700—01 канрэктар і рэктар Кейданскай гімназіі, пасля прапаведнік віленскі.

Мікалай (1675, мяст. Койданава—?), сын Яна. Вучыўся ў Караляўцы, пасля прапаведнік і выкладчык у ВКЛ.

Самуэль (1678, мяст. Койданава—?), сын Яна. Вучыўся ў Караляўцы (1700), пасля прапаведнік і выкладчык у ВКЛ. У 1703 прарэктар, з 1705 рэктар Кейданскай гімназіі.

Казімір (1682, мяст. Койданава—1750), сын Яна. У 1702—11 вучыўся ў Берліне, Караляўцы і Марбургу (1707). Кансеньёр падляшскі ў 1721, сеньёр падляшскі ў 1731, навагародскі ў 1746, беларускі. Большую частку жыцця правёў у Заблудаве, дзе быў прапаведнікам.

*Валерый Пазднякоў.*

**Базылік** Цыпрыян [1535?, г. Серадз, Польшча—пасля 1600], бел. і польскі дзеяч культуры, паэт, перакладчык, кампазітар, кнігавыдавец. Паходзіў з мяшчанскай сям'і. Вучыўся ў Кракаўскім ун-це (1550—51), тады ж прыняў кальвінізм. Потым працаваў у Вільні ў велікакняжацкай канцылярыі. У 1557 ад уладальніка грэчаскіх астравоў Парас і Самас Якаба Базыліка Гераклідаса атрымаў шляхецтва і прозвішча Б., а таксама тытул «poeta laureatus». У 1558—67 прыдворны музыкант, адзін з кіраўнікоў капэлы канцлера ВКЛ М.Радзівіла Чорнага. Аўтар 4-галосых пратэстанцкіх песень, выдадзеных у 1556 і 1558 у Кракаве. Разам з Вацлавам з Шамотул напісаў музыку да першага друкаванага кальвініцкага нотна-літургічнага зб. ў ВКЛ «Песні хвал боскіх» Я.Зарэмбы (Берасцейскі канцыянал, 1558). У некаторыя песні Б. увёў складаны кантрапункт. Невядома, дзе ён атрымаў муз. адукацыю, але яго музычныя творы напісаны на даволі высокім маст. і прафес. узроўні. Стварыў 12 чатырохгалосых і 1 трохгалосую песню, 3 манодыі з рэлігійнымі тэкстамі для рэфармацкай царквы. У 1560—70-я г. ўладальнік і кіраўнік Берасцейскай друкарні (гл. ў арт. *Берасцейскія друкарні*), дзе выдаваліся рэлігійныя і свецкія кнігі, у т.л. *Берасцейская Біблія* (1563), «Размова паляка з літвінам» (каля 1564). У некаторыя кнігі ўключаны яго вершы. Б. — аўтар верша «Кароткае апісанне падзей, звязаных са смерцю і пахаваннем Альжбеты з Шыдлоўца Радзівіл» («Krótkie wypisanie sprawy przy śmierci i pogrzebie Oświeconej Księżnej Pani Halżbiety z Szydłowca Radziwiłłowej», Берасце, 1562), паэмы «Надпіс на помніку … Паўла Сецыгнёўскага» («Napis na grobie zacnego szlachcica Pawła Secygniowskiego», Берасце, 1570). Магчыма, яму належыць сатырычная антыкаталіцкая паэма «Пратэй, або Пярэварацень» («Proteus, abo Odmieniec», Берасце, 1564) і сатырычная алегорыя «Працэс чарцей супраць людского роду» («Postępek prawa czartowskiego», Берасце, 1570). Разам з А.*Воланам* пераклаў з лац. мовы на польскую і выдаў кампіляцыйны твор «Гісторыя жорсткіх ганенняў царквы боскай» («Historia o srogim prześladowaniu Kościoła Bożego», Берасце, 1567), у якім асуджаюцца рэліг. ганенні ў Зах. Еўропе. Пераклаў на польск. мову творы А.Фрыча Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (Лоск, 1577), М.Олаха «Пра Атылу, караля угорскага» (Кракаў, 1574; рукапіс бел. перакладу каля 1580, гл. *«Гісторыя пра Атылу»*) і М.Барлетыуса аб герoі вайны супраць туркаў Г.Скандэрбегу (1569). У 1570—80-я г. займаў пасаду войта ў Мельніку на Падляшшы.

*Літ.*: Hławiczka K. Pieśni Cypriana z Sieradza// Muzyka. 1959. Z. 3; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII w. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław etc., 1959; Кавалёў С.В. Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 2002.

**базыльяне**, манахі грэка-каталіцкага (уніяцкага) ордэна св. Васіля (Базыля) Вялікага (лац. Ordo Sancti Basilii Magni, OSMB). Узнік пасля абвяшчэння *Берасцейскай уніі 1596* з правасл. манахаў, якія прынялі унію. Стваральнік ордэна Б. — уніяцкі мітрапаліт І.*Руцкі*. У 1607 ён з дапамогай І.*Кунцэвіча* пачаў выхаваўчую працу сярод паслушнікаў у падначаленым яму *Віленскім Троіцкім манастыры*, у 1615 атрымаў папскі дазвол на пасылку манахаў на вучобу ў папскія алюмнаты ў Вільню, Бранева, Прагу, Оламаўц, Вену, у Грэчаскі калегіум у Рыме. У 1616 арганізаваны першы базыльянскі навіцыят у *Быценскім Успенскім манастыры*. У 1617 у Навагародку адбылася 1-я генеральная капітула (кангрэгацыя) базыльянскіх манастыроў ВКЛ, на якой




Пячатка протаархімандрыта ордэна **базыльян**. 18 ст.

быў прыняты статут, распрацаваны Руцкім на аснове правіл св. Васіля на ўзор статутаў рымска-каталіцкіх манаскіх ордэнаў. Была ўтворана Віленская (Літоўская) кангрэгацыя Св. Тройцы, якая аб'яднала манахаў 5 падначаленых Руцкаму манастыроў. Руцкі быў абраны першым протаархімандрытам (генералам) ордэна. Рэформа была зацверджана ў 1624 Кангрэгацыяй прапаганды веры і ў 1631 папам Урбанам VIII. Для ўмацавання ордэна Б. папа Павел V у 1613 дазволіў прымаць у яго католікаў лацінскага абраду (са зменай абраду на ўсходні). Згодна з прывілеем 1635 караля Уладзіслава IV епіскапамі грэка-каталіцкай царквы маглі выбірацца толькі манахі-Б., што яшчэ больш узмацніла пазіцыі ордэна. У 1622 у Віленскай кангрэгацыі было 13 манастыроў, у 1648 — 39 манастыроў. *Замойскі сабор 1720* пастанавіў базыльянскія манастыры Луцкай, Уладзімірскай, Холмскай, Львоўскай і Перамышльскай дыяцэзій аб'яднаць у асобную правінцыю, што рэалізавана на генеральнай капітуле 1739 у Львове, якая стварыла Рускую (Польскую, або Каронную) кангрэгацыю Пакрова Багародзіцы. Генеральная капітула 1743 у Дубне згодна з брэве папы Бенядзікта XIV ад 27.12.1742 злучыла абедзве кангрэгацыі ў адзін манаскі ордэн, які складаўся з 2 правінцый (былых кангрэгацый) — Літоўскай і Польскай. Протаархімандрыт Б. выбіраўся з прадстаўнікоў абедзвюх правінцый па чарзе. Сваім брэве ад 11.5.1744 папа Бенядзікт XIV даў Б. афіцыйную назву «Рускі ордэн святога Васіля Вялікага» (лац. Ordo Sancti Basilii Magni Ruthenorum, праіснавала да 1932). У 1744—48 Б. мелі ў Літоўскай правінцыі 66 манастыроў і 446 манахаў, у Польскай правінцыі — 122 манастыры і каля 650 манахаў; непасрэдна кіеўскаму мітрапаліту была падначалена асобная Супрасльская архімандрыя з 2 рэзідэнцыямі і 30 манахамі. У 1773 у Літоўскай правінцыі 72 манастыры і 612 манахаў. Найбуйнейшымі з іх былі Полацкі, Жыровіцкі, Менскі, Віцебскі, Беразвецкі, Барунскі, Быценскі. Рэзідэнцыя протаархімандрыта Б. была ў *Тараканскім манастыры*, рэзідэнцыя літоўскага правінцыяла (кіраўніка правінцыі) — у Віленскім Троіцкім манастыры. Паводле статута 1658 протаархімандрыт ордэна абіраўся на генеральнай капітуле на 4 гады і падпарадкоўваўся кіеўскаму мітрапаліту. Вышэйшым органам улады Б. была генеральная капітула (кангрэгацыя), якая склікалася не радзей, чым раз у 4 гады і на якой павінен быў прысутнічаць кіеўскі мітрапаліт, архіепіскапы і епіскапы, протаархімандрыт, настаяцелі манастыроў, выбраныя прадстаўнікі ад кожнага манастыра. Б. актыўна займаліся справай асветы, утрымлівалі шматлікія *базыльянскія школы*. Сярод іх былі ўнутраныя базыльянскія школы, публічныя школы і калегіумы, епархіяльныя духоўныя семінарыі. Друкарні Б. былі ў Вільні, Супраслі, Менску, Львове, Пачаеве. У 1628—1800 у іх выдадзена каля 1080 кніг у асн. на польскай, лац., царк.-слав. мовах, каля 40 % складала свецкая л-ра.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) генеральная капітула ў Тараканях у 1780 стварыла 2 новыя правінцыі Б.: Беларускую св. Мікалая, якая аб'яднала манастыры, што адышлі да Рас. імперыі, і Галіцкую Найсвяцейшага Спаса, у якую ўвайшлі манастыры, што апынуліся ў Аўстрыі. Манастыры ў Беларускай правінцыі рас. ўлады падначалілі полацкаму архіепіскапу, кантакты з уладамі ордэна Б. ў Рэчы Паспалітай былі забаронены. У 1804 пасада протаархімандрыта скасавана, а ўсе манастыры Б. падначалены мясц. епіскапам. У час правядзення палітыкі скасавання уніі ў 1830-я г. базыльянскія манастыры ў Рас. імперыі былі скасаваны або пераўтвораны ў праваслаўныя.

Існавала жаночая галіна ордэна. У ВКЛ першыя манастыры базыльянак утварыліся ў выніку дзейнасці Руцкага каля 1610 у Вільні і Быцені (апошні хутка быў перанесены ў Пінск). У сярэдзіне 17 ст. яны існавалі ў Вільні, Навагародку, Менску, Гародні, Полацку, Оршы, Пінску, Падборцах каля Дубны, пасля з'явіліся ў Віцебску (1697) і Мазалаве (1727). У 1772 у Рэчы Паспалітай было 25 манастыроў базыльянак і каля 200 манашак. У адрозненне ад Б. манастыры базыльянак не ўтваралі цэнтралізаванай арганізацыі і дзейнічалі аўтаномна, падпарадкоўваліся мясц. епіскапам.

*Літ.*: Петров Н. Очерк истории базилианского ордена в бывшей Польше // Тр. Киевской духовной академии. 1870. Т. 2—4; 1871. Т. 1—3. 1872. Т. 1; Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873; Kłoczowski J. Wspólnoty chrześcijańskie. Kraków, 1964; Szegda M. Działalność prawno-organizacyjna metropolity Józefa IV Welamina Rutskiego (1613—1637). Warszawa, 1967; Pidłypczak-Majerowicz M. Bazylianie w Koronie i na Litwie: Szkoły i książki w działalności zakonu. Warszawa; Wrocław, 1986; Казуля С.В. Чын св. Базыля ў расійскай гістарыяграфіі XIX—пач. XX стст. // Наш радавод. Гродна, 1994. Кн. 6, ч. 3; Новицкая-Ежова А. Орден базилиан и его культурно-просветительская деятельность на украинско-белорусско-литовских землях Речи Посполитой // Славяноведение. 1996. № 2; Клімаў С. Базыльяне на землях Вялікага Княства Літоўскага ў другой палове XVIII ст. // Бел. гіст. агляд. 1996. Сш. 2; Wereda D. Bazylianie w unickiej diecezji brzeskiej w XVIII wieku // Białoruskie zeszyty historyczne. 2003. Z. 19.

***Валерый Пазднякоў.***

**базыльянскія школы**, навучальныя ўстановы, якія ствараліся, утрымліваліся і кіраваліся манаскім ордэнам *базыльян* у 17—1-й пал. 19 ст. Дзейнічалі на Беларусі, Украіне, у Літве, Латвіі і Польшчы. Сярод іх былі ўнутраныя школы для базыльян, публічныя школы і калегіумы, епархіяльныя духоўныя семінарыі. У 1605 І.*Руцкі* склаў мемарыял аб рэфармаванні школ. 31.3.1613 кароль Жыгімонт III Ваза прывілеем дазволіў базыльянам адкрываць публічныя школы з «рускай» (старабеларускай і староўкраінскай) ці польскай мовамі навучання. Руцкі лічыў, што гэтыя школы павінны пераняць арганізацыю, сістэму і змест навучання ў езуіцкіх калегіумаў, мець такія ж правы і прывілеі. Папа Павел V 2.12.1615 зацвердзіў Б.ш. і дазволіў весці ў іх навучанне свецкай моладзі. Першыя школы ўзніклі да 1637 у Барунах, Жыровічах, Краснаборы, Менску, Навагародку і Чарэі. Настаўнікаў для Б.ш. рыхтавалі ў езуіцкіх калегіумах, Віленскай акадэміі, замежных універсітэтах. Пазней большасць настаўнікаў рыхтавалі базыльян-

скія навучальныя ўстановы. Рэктарамі і прэфектамі былі базыльяне, выкладчыкамі —базыльяне і свецкія настаўнікі. Настаўнікі-манахі мелі права выкладаць у свецкіх навуч. установах — Віленскай акадэміі, семінарыях, прыходскіх школах. Педагогі былі знаёмы з дыдактыкай І.Г.Песталоцы, у прыходскіх школах яны часта карысталіся сістэмай узаемнага навучання выхаванцаў. Дзеячы ордэна базыльян выступалі супраць цялесных пакаранняў у школах. У Б.ш. выкладалі грэч., лац., царкоўнаслав., польскую, ням., франц. мовы, метафізіку, рыторыку, логіку, паэтыку, права, свяшчэнную гісторыю, асновы хрысціянскага веравучэння і абраднасці, гісторыю агульную і Рэчы Паспалітай, фіз. і паліт. геаграфію, арыфметыку, алгебру, геаметрыю, заалогію, з канца 18 ст. фізіку і астраномію. У Б.ш. вучылася моладзь розных веравызнанняў. У 17—пач. 18 ст. ў выніку ваенных дзеянняў, у т.л. ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51, вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, Паўночнай вайны 1700—21*, значная колькасць Б.ш. была знішчана, іншыя прыйшлі ў заняпад. У 2-й пал. 18 ст. пачалося іх адраджэнне, павялічылася колькасць навучэнцаў і настаўнікаў. Некаторыя манастыры базыльянак трымалі школы для дзяўчат. З 1773 Б.ш. ўваходзілі ў школьную сістэму *Адукацыйнай камісіі*, карысталіся яе падручнікамі і праграмамі. У 1795 на тэр. Літоўскай правінцыі ордэна базыльян дзейнічалі Б.ш. шасцікласныя ў Барунах, Беразвеччы, Жыровічах; трохкласныя ў Свержані, Талачыне, Жыдычыне (на Валыні) і Падубісе (у Жамойці), а таксама шматлікія парафіяльныя школы. У Рускай правінцыі ордэна было 9 значных Б.ш., у Супрасльскай архімандрыі 2 (у Супраслі і Варшаве); 2 Б.ш. дзейнічалі ў Галіцкай правінцыі ордэна. У Б.ш. працавала каля 100 настаўнікаў, у кожнай школе было ад 100 да 600 вучняў. У 1820—30-я г. Б.ш. былі зачынены ўрадам Рас. імперыі або пераўтвораны ў семінарыі і духоўныя школы па падрыхтоўцы белага духавенства для Рус. правасл. царквы.

Для падрыхтоўкі манахаў з паслушнікаў існавалі навіцыяты (школы) пры манастырах у Антопалі, Беразвеччы, Вільні, Віцебску, Замосці, Лаўрышаве, Лядах, Львове, Полацку, Жыровічах, Холме і інш. Вучыліся ў іх 2—4 гады, існавалі 3 спецыялізацыі: тэалогія, філасофія, рыторыка. Згодна з пастановай генеральнай капітулы 1671 у Навагародку, навіцыят пры Быценскім манастыры павінны былі скончыць усе базыльяне, якія мелі заняць кіруючыя пасады ў ордэне. Базыльяне кіравалі епархіяльнымі духоўнымі семінарыямі ва Уладзіміры (з 1720), Свержані (з 1743) і Холме (з 1769).

*Літ.*: Łukaszewicz J. Historya szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskiem od najdawniejszych czasów aż do roku 1794. T. 3—4. Poznań, 1851; Giżycki J. M. (Wołyniak). Monastyr bazylianów w Ladach na Białej Rusi. Kraków, 1891; Pidłypczak-Majerowicz M. Bazylianie w Koronie i na Litwie: Szkoły i książki w działalności zakonu. Warszawa; Wrocław, 1986.

***Віктар Кірэеў.***

**байдак**, рачное судна, прызначанае для транспарціроўкі грузаў. Вядома з 16 ст. Даўжыня 30—60 м, шырыня 6—12 м, вышыня 1,5—2 м, грузападымальнасць 40—200 т. Каркас Б. з копаняў (ніжніх частак ялін з тоўстымі каранёвымі адросткамі, што адыходзілі ад ствала пад прамым вуглом). Кіраваўся стырном кармавой канструкцыі. Мог мець 2-схільную страху, мачту для 1—2 ветразяў, 2 якары. Тэрмін службы да 8 гадоў. Скорасць па цячэнні да 60 км за суткі, супраць цячэння — да 20 км за суткі (на ветразях адпаведна да 100 і 60 км у суткі). У пач. 19 ст. Б. эвалюцыяніраваў у берліну. Б. выкарыстоўваліся ў асноўным у Дняпроўскай рачной сістэме (Дняпро, Бярэзіна, Прыпяць, Сож).

***Алесь Доўнар.***

**байдачнае**, разнавіднасць *мыта* ў ВКЛ, якое збіралася пры праходзе рачных суднаў з таварамі. Права збору Б. давалася прывілеямі вял. князя літоўскага, самавольны збор караўся канфіскацыяй маёнтка, у межах якога бралася незаконнае мыта (Статут ВКЛ 1588, раздз. 1, арт. 29). У сярэдзіне 16 ст. на Дняпры ад камягі бралася мыта 30 грошаў, ад паўкамягі — 15, з парома — 12, з чоўна 6 грошаў.

***Алесь Доўнар.***

**Бака** Юзаф (18.3.1707, Менскі пав.— 2.6.1780), каталіцкі рэлігійны дзеяч, паэт. Д-р тэалогіі. Сын мсціслаўскага скарбніка Адама Бакі. З 1723 езуіт, з 1735 ксёндз. У 1738—39 выкладаў рыторыку ў Віленскай акадэміі. Каля 1739 заснаваў езуіцкую місію ў маёнтку Блонь Менскага пав., да 1757 узначальваў яе. Потым вёў місіянерскую дзейнасць у Навагародку, з 1768 у Вільні. Яго паэтычны зборнік «Развагі пра смяротны стан і грахоўную злосць» («Uwagi rzeczy ostatecznych i złości grzechowej przy nabożnych aktach, modlitwach i tekstach różnych», Вільня, 1766) належыць да метафізічнай паэзіі позняга барока. 2-я частка зб. «Роздум пра непазбежную смерць» («Uwagi śmierci niechybnej», Вільня, 1766), выдадзеная асобна, атрымала процілеглыя ацэнкі: у 19 ст. — прадмет насмешак і жартаўлівых наследаванняў, сёння лічыцца шэдэўрам гратэску; спроба паказаць у ёй дэманічную ўсемагутнасць смерці, блізкая да нігілізму. Стыль Б. выкарыстоўвалі В.Дунін-Марцінкевіч («Просьба» № 1), У.Сыракомля («Наследаванне Баку»).

*Літ.*: Nawarecki A. Czarny karnawał: «Uwagi śmierci niechybnej» księdza Baki — poetyka tekstu i paradoksy recepcji. Wrocław etc., 1991.

***Адам Мальдзіс.***

**Бакус** (Backus) Освальд Прэнціс (11.3.1921, г. Рочэстэр, штат Нью-Йорк, ЗША—8.7.1972), амерыканскі гісторык. Скончыў Іельскі ў Нью-Хэйвене (1942) і Калумбійскі ў Нью-Йорку (1943) ун-ты. З 1948 выкладаў у Ратжарскім ун-це ў Нью-Брансуіку, штат Нью-Джэрсі, з 1950 у Канзаскім ун-це ў Лорэнсе, асацыіраваны праф. (1955), поўны праф. (1959). Вывучаў гісторыю феад. Расіі і ВКЛ 14—16 ст. У кн. «Прычыны ад'езду заходнярускіх арыстакратаў з Літвы ў Маскву, 1377—1514» (1957) матывы пераходу прадстаўнікоў княжацкіх родаў ВКЛ у Маскоўскую дзяржаву бачыў у пагранічных сутычках, незадаволенасці князёў прадастаўленнем прывілеяў менш знатным асобам, узмацненні ўлады цэнтр. ўрада ВКЛ ва ўсх. абласцях дзяржавы. Даследаваў гісторыю шляхты, праблемы феадалізму ў ВКЛ, унію ВКЛ з Польшчай, дзейнасць А.М.Курбскага.

*Тв.*: Motives of west russian nobles in deserting Lithuania for Moscow, 1377—1514. Lawrence, 1957; Die Rechtsstellung der litauischen Bojaren, 1387—1506 // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1958. Bd. 6. H. 1; The problem of feudalism in Lithuania, 1506—1548 // Slavic Review. 1961. Vol. 21. № 4; The problem of unity in the Polish-Lithuanian state// Там жа. 1963. Vol. 22. № 3; A.M.Kurbski in the Polish-Lithuanian state (1564—1583) // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1969. T. 6; Treason as a concept and defections from Moscow to Lithuania in the sixteenth century // Forschungen zur osteuropäischen Geschichte. 1970. Bd. 15; Slavs in Lithuania's rise and its role as a great power

from the 11th century to the 16th century // VII Międzynarodowy Kongress Slawistów: Warszawa, 21—27 VIII 1973. Warszawa, 1973; Mortgages, alienations and redemptions: The rights in land of the nobility in XVIth century Lithuanian and Muscovite law and practice compared // Forschungen zur osteuropäischen Geschichte. 1973. Bd. 18.

*Літ.*: Rhode G. Oswald P. Backus III // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1973. Bd. 21. H. 3; Cienciała A. Po zgonie Oswalda P. Backusa // Kwartalnik historyczny. 1973. ą 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бакфарк** (Bakfark, Bekwark) Валянцін Грэф [жн. 1506 або 1507, г. Брашо, Трансільванія (цяпер Брашоў, Румынія)—13 або 22.8.1576], кампазітар і лютніст эпохі Адраджэння. Значную частку жыцця правёў у ВКЛ. Напачатку працаваў у Трансільваніі, Францыі і, магчыма, у Італіі. З 12.6.1549 прыдворны лютніст вял. князя ВКЛ і караля польскага Жыгімонта Аўгуста. Пасля смерці Барбары Радзівіл выехаў у Каралявец да герцага Альбрэхта, які выдаткаваў пенсію для яго жонкі Кацярыны з Нарбутаў і дзяцей. У час гастроляў Б. па Еўропе ў Ліёне ў 1553 выйшаў яго 1-ы друкаваны збор твораў. У 1554—65 жыў і працаваў у Вільні, падрыхтаваў 2-і збор твораў, прысвечаны Жыгімонту Аўгусту (выдадзены ў Кракаве). З 1566 жыў пры імператарскім двары ў Вене, потым у Венгрыі. У 1571 пераехаў у Падую, дзе працаваў да сваёй смерці. Творчасць Б. — адно з найвялікшых дасягненняў еўрап. лютневай музыкі 16 ст. Віртуознае валоданне тэхнікай ігры на лютні Б. выкарыстоўваў пры стварэнні фантазій, рычэкараў, у т.л. складаных поліфанічных кампазіцый, транскрыпцый сачыненняў аўтарства іншых кампазітараў эпохі. У сваіх творах ён рэалізоўваў цэласныя архітэктанічныя канцэпцыі, у якіх спалучаліся фармальныя элементы позняга матэта з песеннымі, характэрнымі для канцоны і мадрыгала.

*Літ.*: Trilupaitienė J. Valentinas Bakfarkas Lietuvoje // Menotyra. 1984. № 12.

***Аляксей Фралоў.***

**Балабан** Дыянісій, гл. *Дыянісій.*

**Балгарын** Грыгорый, гл. *Грыгорый.*

**Балгарыновіч** Іосіф, гл. *Іосіф I.*

**Балінскі** Міхал Вінцэнт Фелікс (10 або 12.8.1794, маёнтак Цярэспаль Віцебскага пав.—1.1.1864), гісторык і публіцыст. З сям'і інфлянцкага чашніка Ігната Балінскага. Скончыў Віленскі ун-т (1818). Вывучаў л-ру і гісторыю ў І.Лялевеля і права ў І.Даніловіча. У 1816—22 і 1829—30 супрацоўнік час. «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»). Чл. т-ва шубраўцаў, адзін з рэдактараў яго газ. «Wiadomości brukowe» («Вулічныя паведамленні»). У 1818—22 сакратар Віленскага друкарскага т-ва. У 1819 уступіў у масонскую ложу «Руплівы літвін». Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1830—31, чл. Віленскага цэнтр. паўстанцкага к-та, быў арыштаваны. З 1836 жыў у Варшаве, адзін з заснавальнікаў навук.-літ. часопіса «Biblioteka Warszawska» («Варшаўская бібліятэка»). З 1847 у Вільні, віцэ-старшыня Віленскай археалагічнай камісіі, чл. Рус. геаграфічнага т-ва. Аўтар публіцыстычных, гіст. і гісторыка-геагр. даследаванняў, прысвечаных Беларусі і Літве. Разам з Ц.Ліпінскім выдаў у Варшаве даследаванне «Старажытная Польшча з погляду гістарычнага, геаграфічнага і статыстычнага» («Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym», т. 1—3, 1843—46), 3-і том якога падрыхтаваны Б., дзе на падставе багатага дакументальнага матэрыялу пададзена гісторыя населеных пунктаў Беларусі і Літвы (2 выд. т. 1—4, 1885—86). Асвятляў гісторыю Беларусі як частку гісторыі Польшчы і польскай культуры. Выдаў шэраг гіст. крыніц, у т.л. дыярыушы Абуховічаў і Я.Цадроўскага ў кн. «Гістарычныя помнікі для асвятлення публічных спраў у Польшчы ў 17 ст.» (Вільня, 1859), творы Я.Снядэцкага (т. 1—7, Варшава, 1837—39) і А.Снядэцкага (т. 1—6, Варшава, 1840). Перакладаў з італьян., лац. моў.

*Тв.*: Opisanie statystyczne miasta Wilna. Wilno, 1835; Historya miasta Wilna. T. 1—2. Wilno, 1836—37; Pamiętniki o królowej Barbarze, żonie Zygmunta Augusta. T. 1—2. Warszawa, 1837—40; Pisma historyczne. T. 1—4. Warszawa, 1843; Historia polska. Warszawa, 1844; Studya historyczne. Wilno, 1856; Dawna Akademia Wileńska. Petersburg, 1862; Pamiętniki o Janie Śniadeckim. T. 1—2. Wilno, 1865.

*Літ.*: Prasa polska w latach 1661—1864. Warszawa, 1976. S. 122—165; Пичета В.И. Введение в русскую историю: (Источники и историография). М., 1923; Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; Naruniec R. Michał Baliński jako mecenas polsko-litewskich więzi kulturalnych. Warszawa, 1995.

***Дзмітрый Караў.***

**Балтрамайціс** (Baltramaitis) Сільвестрас [20.11(2.12).1841, в.Манкішкяй Радвілішкскага р-на, Літва—1918 ?], літоўскі бібліёграф і этнограф. У 1869—1918 працаваў у Пецярбургскай публічнай б-цы. З 1891 прымаў удзел у дзейнасці Рас. геагр. т-ва (з 1893 чл. яго літоўска-латышскай этнагр. камісіі), з 1900 Рас. бібліялагічнага т-ва, з 1907 — Літ. навук. т-ва (у 1912 абраны яго чл.-карэспандэнтам). У працах «Зборнік бібліяграфічных матэрыялаў для геаграфіі, этнаграфіі і статыстыкі Літвы» (1891) са спісам літоўскіх і стараж.-прускіх кніг, выдадзеных у 1553—1891, і «Зборнік бібліяграфічных матэрыялаў для геаграфіі, гісторыі, гісторыі права, статыстыкі і этнаграфіі Літвы» (2-е выд., 1904) са спісам літоўскіх і стараж.-прускіх кніг, выдадзеных у 1553—1903, зафіксаваў больш за 20 тыс. кніг, артыкулаў, рэцэнзій пра Літву і літоўскі народ, шырока паказаў працы па беларусазнаўстве. Аўтар этнагр. працы пра літоўскія вясельныя абрады (1877, на рус. мове).

**Бальцэвіч** Францішак Вацлаў, віленскі гравёр сярэдзіны 18 ст. Працаваў у тэхніцы гравюры па медзі. Гравіраваў пераважна выявы святых, у т.л. Пятра Скаргі (1748), каралевіча Казіміра (1749), Іосіфа Каласанці, Яна Непамука, Антонія Падуанскага, Вінцэнта Ферэрыуса; абразы Маці Божай у Віленскім касцёле св. Міхала, Лукішскую, Вастрабрамскую, Эйсімонцкую. Аўтар партрэта каралевы Марыі Юзэфы, жонкі Аўгуста III (1746). Выканаў некалькі экслібрысаў для дамініканскіх і прыватных бібліятэк Г.Піскоўскага, Г.Помяна, К.Л.Пля-



Ф.В.**Бальцэвіч**. Святы Казімір. Медзярыт. Вільня. 1745.

тэра, М.Г.Важынскага і інш. Стварыў уласны тып экслібрыса (з бюстамі «вучоных мужоў»), які стаў узорам для інш. мастакоў. Творы Б. вызначаюцца тэхнічнай дасканаласцю, прапрацоўкай дэталей.

***Валерый Пазднякоў.***

**Балюліс** (Baliulis) Альгірдас Антанас (н. 2.1.1936, в. Дуабяй Уценскага р-на, Літва), літоўскі гісторык, археограф. Д-р гуманітарных навук (1993). Скончыў Вільнюскі ун-т (1958). З 1958 працаваў у Інспекцыі па ахове помнікаў Дзяржбуда Літвы, з 1962 заг. б-кі Вільнюскага філіяла Каўнаскага політэхн. ін-та, нам. дырэктара Навук. б-кі Вільнюскага ун-та. З 1971 у Ін-це кансервацыі помнікаў, з 1988 і з 2000 навук. супрацоўнік, у 1994—99 заг. аддзела археаграфіі Ін-та гісторыі Літвы. Даследуе гісторыю гарадоў і мястэчак Літвы, у т.л. помнікаў горадабудаўніцтва. Падрыхтаваў да друку і выдаў крыніцы па гісторыі ВКЛ: «Рашэнні Галоўнага Літоўскага Трыбунала, 1583—1655» (1988, з В.Раўдзелюнасам), «Інвентары старостваў Вількамірскага павета 1765 года» (1994), кнігі Метрыкі ВКЛ № 1, 3, 8, 10, 12, 25, 51, 52, 531, 532, 564 (1995—2004, з іншымі), хрэстаматыю «Паўсядзённае жыццё ў Вялікім княстве Літоўскім» (2001, з Э.Мейлусам), «Судовыя кнігі Жагарскага двара, 1670—1751» (2003, з Раўдзелюнасам і Р.Фірковічусам). Літоўская нац. прэмія ў галіне навукі за падрыхтоўку да друку кніг Метрыкі ВКЛ (1998).

*Тв.*: Trakų miestas ir pilys: Istorija ir architektūra. Vilnius, 1991 (разам з С.Мікулёнісам, А.Мішкінісам).

**Балямоўскі** Фелікс, друкар 2-й пал. 16 ст. Апошні, пасля Я.*Карцана*, кіраўнік *Лоскай друкарні* Кішкаў. Імем Б. пазначаны 2 выданні: кніга А.Вітрэлінуса «Развага ў другім Евангеліі Іаана» (1586) і падручнік Я.Л.Намыслоўскага «Сентэнцыі, неабходныя ў грамадскім жыцці» (1589). Пасля гэтага звесткі пра Б. адсутнічаюць. Відаць, ён узначальваў друкарню да яе закрыцця пасля 1592.

**бамбарда** (франц. bombarde, італьян. bombarda), цяжкая гармата, якая ў 14—16 ст. выкарыстоўвалася для разбурэння фартыфікацыйных аб'ектаў. Напачатку яе рабілі з некалькіх палос жалеза, змацаваных абручамі, пазней адлівалі з бронзы. Б. мела вял. калібр (да 950 мм), кароткі ствол (5—6 калібраў), падоўжаную зарадную камеру, маса Б. дасягала 10—19 т, а ядра — 300—400 кг. Страляла каменнымі, пазней — жалезнымі ядрамі. Далёкасць стральбы дасягала 200—600 м. Больш раннія Б. замацоўвалі ў масіўных калодах, устаноўленых на вымастках з брусоў; у 15 ст. іх ставілі на масіўныя колы. У ВКЛ Б. вядомы з канца 14 ст. Некалькі Б. прывёз у Літву з Польшчы Ягайла ў ліст. 1390. Як адзначана ў летапісе, «Литвы и Немец много побиено бысть от пушек» у час паходу Вітаўта з крыжакамі на Вільню ў 1391. Калі ў 1392 Вітаўт пакінуў Нямецкі ордэн, то забраў з сабой у Літву некалькі Б. У 1393 Вітаўт ужыў гарматы пры аблозе Віцебска, занятага Свідрыгайлам, а ў 1403 — пры аблозе Смаленска. Пры апісанні паходу Вітаўта на Ноўгарад у 1428 летапіс адзначае, што ў вял. князя была «пушка велика велми, Галка именем, везяху ея на сороце конех».

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002.

***Юрась Бохан.***

**бандалет**, кароткая *аркебуза* з колавым замком, якая з сярэдзіны 17 ст. шырока выкарыстоўвалася конніцай ВКЛ, асабліва *казакамі*.

***Генадзь Сагановіч.***

**Банецкі** (Boniecki) Адам Юзаф Фелікс (19.11.1842, г. Жыдаў, Польшча—24.6.1909), польскі гісторык, генеалог. Вучыўся ў Пецярбургскім ун-це і Прававодй школе ў Парыжы. У 1865—72 служыў у судовых установах у Варшаве. Пакінуўшы службу, асеў у маёнтку Свідна пад Варшавай і заняўся генеалагічнымі даследаваннямі. Гал. праца Б. — няскончаны «Польскі гербоўнік» («Herbarz polski», т. 1—13, Варшава, 1899—1909), які змяшчае багаты матэрыял па генеалогіі шляхецкіх родаў ВКЛ. Пасля смерці Б. яго справу прадоўжыў А.Рэйскі, які ў 1911—19 апублікаваў т. 14—16 (да літары «М»). Працы Б. заснаваны на багатым архіўным матэрыяле, вылучаюцца крытычным падыходам і маюць высокую навук. каштоўнасць. Рукапісная спадчына Б., якая перайшла да У.*Дваччака*, загінула ў Варшаве ў 1944.

*Тв.*: Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI w. Warszawa, 1887.

*Літ.*: Konarski S. Indeks nazwisk do *Herbarza polskiego* Adama Bonieckiego. Warszawa, 1993.

**Банёніс** (Banionis) Эгідыюс (20.11.1948, г. Панявежыс, Літва—6.8.1993), літоўскі гісторык. Канд. гіст. н. (1982). Скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны ін-т (1972). З 1972 у Архіве л-ры і мастацтва Літвы (з 1974 дырэктар). З 1985 заг. аддзела археаграфіі Ін-та гісторыі АН Літвы. Выкладаў у Вільнюскім і Каўнаскім ун-тах. Вывучаў дыпламатыю ВКЛ 15—16 ст., гісторыю Метрыкі ВКЛ, генеалогію. Падрыхтаваў да друку кнігі Метрыкі ВКЛ: «Літоўская Метрыка. Кн. 5 (1427—1506)» (1993), «Літоўская Метрыка. Кн. 10 (1440—1523)» (выд. 1997, з А.Балюлісам).

*Тв.*: Великое княжество Литовское: основные тенденции государственного и культурного развития в XV в. // Наш радавод. Гродна, 1991. Кн.3, ч.3; К вопросу о генезисе книг Литовской Метрики (последняя четверть XV в.) // Литовская Метрика: Исслед. 1988 г. Вильнюс, 1992; З гісторыі Літоўскай Метрыкі // Бел. гіст. часоп. 1994. №1; Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės pasiuntinybių tarnuba XV—XVI amžiais. Vilnius, 1998.

***Валерый Пазднякоў.***

**баніфратры**, браты міласэрнасці, манахі каталіцкага манаскага ордэна св. Яна Божага («Шпітальны ордэн св. Яна Божага», лац. Ordo Hospitalarius Sancti Joannis de Deo). Заснавальнік ордэна партугалец Ян Божы ў 1540 у Грэнадзе (Іспанія) стварыў цывільнае брацтва, галоўнай мэтай якога быў догляд хворых,



**Бандалеты**. 17 ст.

удоў і сірот. 1.1.1572 рымскі папа Пій V надаў брацтву статут св. Аўгусціна, а ў 1586 папа Сікст V ператварыў яго ў манаскі ордэн. У 1608 адміністрацыйна падзелены на незалежныя Ісп. і Італьян. кангрэгацыі, на чале якіх стаялі генералы. Б. Рэчы Паспалітай належалі да Італьян. кангрэгацыі, у 1633 утворана Польска-Літоўская правінцыя Б. Звеставання Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Выпрабавальны тэрмін пры ўступленні 1 год, яшчэ 1 год адводзіўся для выпрабавання прынятага ў ордэн. Апрача 3 асн. манаскіх абавязкаў (паслушэнства, устрымання, беднасці) узялі на сябе яшчэ адзін — догляд хворых. Кляштарнымі шпіталямі кіравалі цывільныя ардынарыі, якія мелі мед. адукацыю. Вопратка Б. (габіт): рыза з чорнага сукна, шкаплер такога ж колеру, маленькі круглы капюшон, скураны пояс. У Рэчы Паспалітай першы кляштар Б. заснаваны ў Кракаве ў 1609. На тэр. ВКЛ кляштары Б. былі ў Вільні (1635—1843, гл. *Віленскі кляштар баніфратраў*), Новагародку (1649—1836, фундатар К.Л.Сапега, падканцлер ВКЛ), Ракаве (1650—90?), Менску (1709—1836, фундатар Т.А.Ванькові́ч, стольнік менскі), Гародні (1728—1843, фундатар віленскі біскуп К.Панцажынскі), Высокім (1785—1842, фундатар А.Сапега).

*Літ.*: Rosiak S. Bonifratrzy w Wilnie (1635—1843—1924): Szkic z dziejów opieki społecznej w Wilnie. Wilno, 1928; Kłoczowski J. Zakony męskie w Polsce w XVI—XVIII wieku // Kościół w Polsce. Kraków, 1970. T. 2; Zakony męskie w Polsce w 1772 roku. T. 1. Lublin, 1972.

***Людміла Карнілава.***

**баніцыя**, від пакарання ў Рэчы Паспалітай. Узнікла ў 16 ст. як разнавіднасць *інфаміі* (была больш мяккай яе формай). Прыгавораны да Б. (баніт) мусіў пакінуць краіну, страчваў грамадзянскія правы (але не гонар), яго можна было беспакарана забіць, аднак яго забойства не аплачвалася, як забойства інфаміса. Гродскі староста быў абавязаны схапіць баніта і пасадзіць пад варту, але не мог пакараць яго смерцю без спец. дазволу караля, што здаралася рэдка. Вечная Б. абвяшчалася за дзярж. здраду, абразу маястату, цяжкія злачынствы; магла быць скасавана пастановай сойма. Часовая (грамадзянская) Б. абвяшчалася за супраціўленне выкананню суд. прыгавору, маёмасныя злачынствы, няўплату даўгоў, парушэнне межаў зямельных уладанняў, гвалт. Асуджаны на часовую Б. мог на працягу 12 тыдняў падаць апеляцыю (для гэтага браў у каралеўскай канцылярыі глейт, або жалезны ліст), яе магла задаволіць вышэйшая суд. інстанцыя або кароль. Тэрміны «Б.» і «баніт» у ВКЛ ужываліся з канца 16 ст.; яны не сустракаюцца ў Статутах ВКЛ, дзе ім адпавядаюць тэрміны «выволанне» і «выволанец».

***Валерый Пазднякоў.***

**Бантке** (Bandtkie) Ежы Самуэль (24.11.1768, г. Люблін, Польшча—11.6.1835), польскі гісторык, бібліёграф, мовазнавец. Д-р філасофіі (1811). Ганаровы член Віленскага ун-та. Вучыўся ў Гальскім і Іенскім ун-тах (1787—90). Служыў гувернёрам, выкладаў у сярэдніх навуч. установах. З 1811 праф. бібліяграфіі Кракаўскага ун-та, дырэктар Ягелонскай б-кі, дзе ўпарадкаваў б. езуіцкія зборы (каля 15 тыс. тамоў). Аўтар прац па гісторыі Польшчы і ВКЛ, гісторыі права, нумізматыцы, слав. мовазнаўстве. У працах, прысвечаных гісторыі кнігадрукавання ў Польшчы і ВКЛ, прывёў гіст. і бібліягр. даныя пра бел. старажытныя кірылічныя і польскамоўныя выданні, асвятляў дзейнасць першадрукароў і кнігавыдаўцоў ВКЛ у Вільні, Заблудаве, Супраслі, Нясвіжы і інш. Яму былі вядомы кнігі пражскай Бібліі і «Апостал» Ф.Скарыны. У «Кароткім аглядзе гісторыі Каралеўства Польскага» [«Krótkie wyobrażenie dziejów Królestwa Polskiego», 1810; 3 выд. 1835 мае дадатак «Пра польскія і літоўскія манеты» («O monetach polskich i litewskich»)] зрабіў сціслы аналіз гісторыі ВКЛ да Люблінскай уніі 1569. Канцэптуальна падзяляў погляды А.Нарушэвіча.

*Тв.*: Historisch-critische Analecten zur Erläuterung der Geschichte des Ostens von Europa. Wrocław, 1802; Historia drukarń krakowskich. Kraków, 1815; Historia biblioteki Uniwersytetu Jagiellońskiego. Kraków, 1821; Historia drukarń w Królestwie Polskim i Wielkiem Księstwie Litewskim. T. 1—3. Kraków, 1826.

***Георгій Галенчанка.***

**Баплан,** Ле Васёр дэ Баплан (Le Vasseur de Beauplan) Гіём (каля 1600, г.Дзьеп, Нармандыя ?—пасля 1.1.1675), французскі ваенны інжынер і картограф. Служыў у франц. арміі, з канца 1630 — у польскай. З 1632 на Украіне, дзе пабудаваў і аднавіў замкі ў Новым




Г. дэ **Баплан**. Карта «Вялікае княства Літоўскае і Белая Русь».

Канецполі, Крамянчугу, Кадаку, Бродах, Бары. З 1637 капітан артылерыі. Ваяваў супраць укр. казакоў і туркаў. У 1647 выехаў у Гданьск, пасля ў Францыю, дзе з 1665 інжынер на каралеўскай службе. З 1636 праводзіў на Украіне картаграфічныя работы, вынікам якіх стала выданне т.зв. «Генеральнай» карты Украіны (вядомы 6 варыянтаў гданьскага выдання 1648 і 6 варыянтаў французскага выдання 1660) і т.зв. «Спецыяльнай» карты Украіны (Б. скончыў складанне ў 1645 і збіраўся далучыць яе да сваёй кнігі з апісаннем Украіны; яна адлюстроўвала цэнтральную паласу Украіны, вядомы 4 варыянты гданьскага выдання 1650). Памочнікам Б. пры складанні «Генеральнай» карты (асабліва раёнаў Прычарнамор'я, Прыазоўя і Ніжняга Дняпра) быў Ю.*Нарановіч-Наронскі*. Выканаў серыю карт Рэчы Паспалітай, гравіраваных В.Гондзіусам у Гданьску ў 1652. Сярод іх карта «Вялікае княства Літоўскае і Белая Русь» («Magnus Ducatus Lithuaniae et Russia Alba»), дзе ўпершыню назва «Белая Русь» вынесена ў загаловак. На аснове сабранага багатага геагр., гіст. і этнаграфічнага матэрыялу выдаў т.зв. «Апісанне Украіны» («Description des contrées du Royaume de Pologne, contenués depuis les confins de la Moscovie jus ques aux limites de la Transilvanie»; Руан, 1651, наступныя выданні ў 1660 і 1661).

*Тв.*: Пер. з франц.: Описание Украины // Мемуары, относящиеся к истории Южной Руси. Киев, 1896. Вып. 2; Опис України, кількох провінцій Королівства Польского, що тягнуться від кордонів Москвії до границь Трансільванії, разом з їхніми звичаями, способом життя і ведення воєн. Київ, 1990.

*Літ.*: Кордт В.В. Материалы по истории русской картографии. Вып. 1—2. Киев, 1899—1910; Buczek K. Dzieje kartografii polskiej od XV do XVII wieku. Wrocław etc., 1963; Казлоў Л.Р. Першыя карты Белай Русі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1980. № 4; Alexandrowicz S. Józef Naroński współautorem Beauplanowskich map Ukrainy i Dniepru z połowy XVII wieku // Pax et Bellum. Poznań, 1993; Маврычын М. Карти України Гійома Боплана як історичне джерело // Kartografia wojskowa krajów strefy bałtyckiej XVI—XX w. Toruń, 1996; Pernal A.B., Essar D.F. Guillaume Le Vasseur, Sieur de Beauplan // Przegląd Wschodni. 1992/93. Z. 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Баранавічы** (цяпер горад, цэнтр Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь), вёска ў Навагародскім пав. Упершыню ўпамінаецца ў 1627 у тастаменце дачкі троцкага ваяводы А.Хадкевіча Ганны Ефрасінні Сяняўскай, якім яна перадала маёнтак Мыш разам з Б. і інш. вёскамі ў спадчыну сваёму сыну. Пасля ўласнасць роду Сяняўскіх. У 1666 маёнтак Мыш з Б. набыў навагародскі кашталян М.У.Юдзіцкі, які ў 1667 заснаваў у Мышы езуіцкі калегіум і перадаў яму сярод інш. зямельных уладанняў Б. У Б. дзейнічала місійная станцыя езуітаў. За права валодаць Б. з езуітамі судзіліся М.Г.Сяняўскі і Г.Любамірскі, у 1683 яны захапілі Мыш і навакольныя вёскі. На моцы судовых рашэнняў Б. перайшлі ва ўладанне Сяняўскіх, у 2-й пал. 18 ст. ўласнасць Масальскіх і Несялоўскіх.

***Валерый Пазднякоў.***

**Баранаўскас** (Baranauskas) Томас (н. 12.9.1973, г. Каўнас, Літва), літоўскі гісторык. Магістр (1998). Скончыў Вільнюскі ун-т (1998). З 1996 супрацоўнік Ін-та гісторыі Літвы, адначасова ў 1999—2000 старшы бібліёграф Аддзела стараж. і рэдкіх кніг Нац. б-кі Літвы. Даследуе раннюю гісторыю Літвы, вытокі літ. дзяржаўнасці, замкі Літвы. Аўтар манаграфіі «Вытокі Літоўскай дзяржавы» («Lietuvos valstybės ištakos», Вільнюс, 2001).

*Тв.*: Deltuvos žemė // Lietuvos istorijos metraštis. 1995 metai. Vilnius, 1996 (разам з Г.Забелам); Mindaugo dvaras Latava // Lietuvos istorijos metraétis. 1997 metai. Vilnius, 1998 (разам з Г.Забелам); Vorutos pilis // Mūsų praeitis. Vilnius, 2001. T. 7; Kur buvo Lietuvos žemė? // Lituanistica. 2002. № 2; Новогрудок в XIII в.: история и миф // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Вытокі Літоўскай дзяржавы // Край=Kraj. Магілёў, 2002. № 1—2; Месца каранацыі Міндоўга// Спадчына. 2002. № 5—6; Lietuvos medinės pilys rašytinių šaltinių duomenimis // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2003. T. 24.

**Барановіч** Лазар, гл. *Лазар*.

**Бараноўскі** (Baranowski) Анджэй Юзаф (н. 25.8.1949, в. Дзвінішкі, Літва), польскі гісторык архітэктуры. Д-р мастацтвазнаўства (1984). Скончыў Варшаўскі ун-т па спецыяльнасці гісторыя (1974) і гісторыя мастацтва (1978). У 1980—84 выкладаў у Варшаўскай Політэхніцы. З 1984 працуе ў Ін-це мастацтва Польскай АН. Даследуе выяўленчае мастацтва і архітэктуру новага часу Цэнтр. і Усх. Еўропы, у т.л. ВКЛ. Навук. рэдактар 1-га выдання працы Р.Афтаназы «Матэрыялы да гісторыі рэзідэнцыі» (Варшава, т. 1—11, 1986—93).

*Тв.*: Architektura sakralna Brześcia XVII i XVIII w. // Kwartalnik architektury i urbanistyki. 1981. Z. 2; Nurty, fazy i centra barokowej architektury sakralnej w Wielkim Księstwie Litewskim // Biuletyn historii sztuki. 1984. № 4; Geografia baroku na «kresach» Rzeczypospolitej // Sztuka pograniczy Rzeczypospolitej w okresie nowożytnym. Warszawa, 1988; Kai kurę Lietuvos Didziosios Kunigaistytes regionu ir miestu architekturos raidos veksniai // Architekturos klausimai.Vilnius, 1988. Ñ. 9; Rola kościołów jezuickich w rozwoju architektury sakralnej Wielkiego Księstwa Litewskiego // Podług nieba i zwyczaju polskiego. Warszawa, 1988; Rola zakonów w pozwoju oblicza miast i regionów dawnego Wielkiego Księstwa Litewskiego // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1992. T. 5; Urbanistyka Połocka w okresie baroku // Kwartalnik architektury i urbanistyki. 1994. Z. 1; The Barogue geography of the Polish Commonwealth // Borders in Art. Norwich; Warsaw, 2000; Роля магнатаў у каранацыі абразоў Божай Маці ў Вялікім Княстве Літоўскім // Спадчына. 2002. № 5—6; Koronacje wizerunków maryjnych w czasach baroku: zjawisko kulturowe i artystyczne. Warszawa, 2003; Zespół dominikanów w Sejnach // Litwa i Polska: Dziedzictwo sztuki sakralnej. Warszawa, 2004.

**Барастус** (Borastus) Гжэгаж (сапр. Грэгэр Ларсан, Greger Larsson; каля 1577, г. Нурчопінг, Швецыя—1656), дзеяч каталіцкай царквы ў Рэчы Паспалітай, паэт, гісторык. Д-р тэалогіі і абодвух правоў (каля 1605). Са шведскай сям'і прыхільнікаў вял. князя ВКЛ і караля польскага Жыгімонта III. У маладым узросце ўцёк са Швецыі і праз Літву пераехаў у Вармію, дзе як каралеўскі стыпендыят вучыўся ў Брунсбергскім езуіцкім калегіуме, з 1593 ў Віленскай акадэміі, пасля ў Рыме і Парыжы. З 1607 ксёндз. Аўтар панегірыкаў М.К.Радзівілу Сіротку (Вільня, 1594) і Л.І.Сапегу (Брунсберг, 1602), зборніка рэліг. вершаў «Паэтычны тэатрыдыюм» («Theatridium poeticum», Вільня, 1604). Дзякуючы кн. «Панегірык Жыгімонту III» («Panegyricus Sigismundi III», Вільня, 1611; пра ўзяцце Смаленска ў 1611) быў прызначаны пісарам каралеўскай канцылярыі, з 1611 лацінскі каралеўскі сакратар, бібліятэкар (пасля 1620), ганаровы капелан, намінальны шведскі канцлер. Канонік вармінскі (з 1623), кракаўскі і варшаўскі, пробашч у Вішняўцы каля Крамянца. У брашуры «Слупы зняважлівай прамовы» («Columniae orationis maledicae», Фрыбур, 1620) бараніў Жыгімонта III ад нападак шведскага пасла ў Лондане Я.Скітэ. У

кн. «Крытыка твораў» («Eventilatio litterarum», Брунсберг, 1623) падтрымаў езуітаў у іх спрэчцы з. Кракаўскай акадэміяй. Напісаў каталіцкую гісторыю Швецыі ад 800 да Эрыка IV (рукапіс загінуў). Заснаваў стыпендыю ў Кракаўскай акадэміі для 6 вучняў са Швецыі, Прусіі і Курляндыі (Bursa Borastiana).

***Валерый Пазднякоў.***

**Баратынскія**, княжацкі род герба «Астоя». Паходзілі ад чарнігаўскіх князёў, уладальнікаў гарадоў Таруса і Мезецк. У 14 ст. Тарусай валодаў кн. Юрый Міхайлавіч, сын Міхаіла Усеваладавіча, у пач. 15 ст. жылі яго праўнукі Андрэй і Дзмітрый Усеваладавічы *Мезецкія*, ад апошняга паходзяць князі Б. Прозвішча ад с. Баратынь на р. Клятоме каля Мезецка (цяпер Калужская вобл.). У 17—18 ст. Б. займалі дзярж. пасады ў Расіі і шматлікія пасады ў Аршанскім пав. ВКЛ. Найб. вядомыя ў ВКЛ:

Аляксандр Андрэевіч (?—?), сын Андрэя Усеваладавіча. Першы ў родзе стаў карыстацца прозвішчам Б. Меў сыноў Рыгора, Дзмітрыя, Фёдара, Льва, якія служылі вял. маскоўскаму князю. Мірным дагаворам 1494 паміж ВКЛ і Масквой устаноўлена, што ўсе князі Б. і іх уладанні падлягаюць юрысдыкцыі Маскоўскай дзяржавы.

Іван Львовіч (?—да 1537), сын Льва Аляксандравіча. Уцёк з Маскоўскай дзяржавы ў ВКЛ, дзе стаў пачынальнікам літоўскай лініі роду (яго жонцы было дазволена выехаць у 1512). У 1516 і 1529 атрымаў уладанні ў Мейшагольскай вол. У 1525 судзіўся з князямі Свірскімі з-за Кабыльнікаў. Валодаў Дусятамі. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 8 коннікаў. Быў жанаты з дачкой кн. І.Л.Вяземскага, з якой меў сыноў Івана, Багдана, Мікалая (Міську), Яську, дачок Аўдоццю (жонка кн. Ц.Ю.Друцкага-Саколінскага), Ганну (жонка А.Длускага) і Палонію.

Мікалай Іванавіч (?—пасля 1563), сын Івана Львовіча. Ад маці атрымаў маёнткі каля Лукомля, Пірошыцы. Яго сынам быў, верагодна, Ян (Януш) Б. — паборца аршанскі ў 1578, які памёр да 1592.

Мікалай (?—пасля 1648), сын Януша. Аршанскі стольнік з 1604, падсудак з 1627, суддзя земскі ў 1638—48. У 1648 удзельнічаў у элекцыі караля Яна II Казіміра.

Найб. вядомыя ў Расіі:

Юрый Фёдаравіч (Мочка; ?—пасля 1564), сын Фёдара Фёдаравіча. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у 1560 удзельнічаў у паходзе пад Вільню, быў галавой у палку правай рукі кн. П.І.Шуйскага. Трапіў у палон і выкуплены царом Іванам IV.

Пётр Іванавіч (?—пасля 1598), сын Івана Васілевіча. У 1569 другі ваявода вял. палка ў паходзе на Ізборск, захоплены войскам ВКЛ. У 1581 у Пскове адзін з военачальнікаў, што кіравалі абаронай горада ад войск Стафана Баторыя. Пасля 1-ы ваявода ў Холме, пры захопе горада быў узяты ў палон, потым адпушчаны.

Іван Міхайлавіч (?—пасля 1601), сын Міхаіла Фёдаравіча. У 1580 у Кукенойсе 2-і ваявода пярэдняга палка. 2-і ваявода левай рукі ў паходзе да Ржэвы і Вял. Лук, у час якога быў разбіты атрад ВКЛ каля Шклова. У 1581, пасля адыходу з Ржэвы, разбіты М.Радзівілам Рудым.

Якаў Пятровіч (?—пасля 1613), сын Пятра Іванавіча. У 1604 адзін з ваявод у Ноўгарадзе-Северскім, што супрацьстаялі з войскамі Лжэдзмітрыю I. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* у 1609 ваявода ў Дарагабужы, атрымаў некалькі перамог, узяў Вязьму. У 1610 адзін з рас. паслоў да Жыгімонта III, што запрашалі на рас. трон каралевіча Уладзіслава. У 1613 у складзе пасольства мітрапаліта Філарэта ў Польшчу, быў там затрыманы.

Мікіта Пятровіч (?—1630), сын Пятра Іванавіча. У 1616 ваявода ў Ржэве, быў пасланы да Дарагабужа ваяваць з А.Гасеўскім і даставіць харч пад Смаленск. У 1617 разбіў каля Дарагабужа полк Чаплінскага. У 1618 другі ваявода ў Маскве, адбіваў напад войск Рэчы Паспалітай.

Васіль Раманавіч (?—1634), сын Рамана Васілевіча. У 1617 палкавы соценны галава, пасланы з сотняй пад Дарагабуж, дзе даў бой атраду ВКЛ, паланіў С.Я.Масальскага і Раткевіча.

Даніла Афанасьевіч (?—пасля 1688), сын Афанасія Сямёнавіча. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1659 3-і ваявода ў Смаленску. У 1662 у Смаленску таварыш кн. П.А.Далгарукава, быў пасланы ваяваць пад Полацк. У 1664 ваявода, пасланы пад Віцебск. У 1665 ваявода ў Вял. Луках. У 1665 у Віцебску з Наўгародскім палком. З 1688 баярын.

Юрый Мікітавіч (?—пасля 1671), сын Мікіты Пятровіча. У 1653 быў у складзе пасольства ў ВКЛ. У 1655 у Смаленску, галава жыльцоў у царскім палку. 15.6.1655 пасланы з Копысі на р. Бярэзіна, 21.6.1655 разбіў атрад ВКЛ пад Барысавам. У час паходу кн. С.А.Урусава з Коўна да Берасця 2-і ваявода ў яго войску, разбіў атрады ВКЛ каля Белых Пяскоў і Вярховіч. У 1662 з палком у Бранску, у 1663 у Смаленску, таварыш кн. Я.К.Чаркаскага, у 1664 у Смаленску, Бранску і Сеўску, у 1665 у Дарагабужы, Шклове і Магілёве. З 1671 баярын.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Власьев Г.А. Потомство Рюрика: Материалы для составления родословий. Т. 1, ч. 2. СПб., 1906.

***Валерый Пазднякоў.***

**Барбара** Радзівіл (6.12.1520—8.5.1551), каралева польская і вялікая княгіня літоўская (1550—51), 2-я жонка *Жыгімонта II Аўгуста*. Дачка кашталяна віленскага і вял. гетмана ВКЛ Ю.*Радзівіла*. У 1537 аддадзена замуж па маёмасных



**Барбара** Радзівіл.
Мармур, паліхромія. 16 ст.

меркаваннях за навагародскага (пазней троцкага) ваяводу С.Гаштольда. Пасля яго смерці сышлася з Жыгімонтам Аўгустам (1543). Пачуцці вял. князя да Б. імкнуліся выкарыстаць для ўмацавання ўласных пазіцый яе брат М.*Радзівіл* Руды і стрыечны брат М.*Радзівіл* Чорны. Пад іх націскам у 1547 у Вільні адбылося патаемнае вянчанне Б. з Жыгімонтам Аўгустам. Пасля заняцця апошнім поль-



скага трона (1548) супраць гэтага шлюбу выступілі магнаты і шматлікая шляхта, незадаволеныя ростам уплывовасці Радзівілаў і знявагай каралеўскай годнасці няроўным шлюбам. Рашуча супраць Б. была настроена свякроў каралева *Бона* Сфорца. У 1548 сойм у Пётркаве выступіў за скасаванне шлюбу, але Жыгімонт Аўгуст дамогся яго афіцыйнага прызнання, пагражаючы адрачэннем ад трона і заключыўшы саюз з Габсбургамі. Б. была каранавана ў Кракаве 7.12.1550, але ў хуткім часе памерла (некаторыя гісторыкі лічаць, што яе атруцілі). Пахавана ў Віленскім кафедральным касцёле. Гісторыі рамантычнага кахання Б. з Жыгімонтам Аўгустам прысвечаны шматлікія мастацкія творы.

*Літ.*: Kuchowicz Z. Barbara Radziwiłłówna. 4 wyd. Łódź, 1989; Шышыгіна-Патоцкая К.Я. Чорная дама Нясвіжскага замка. Мн., 1992; Рудзкі Э. Барбара Радзівілянка — другая жонка Жыгімонта Аўгуста: Пер. з польск. // Спадчына. 1994. № 5; Русецкая Н. Лісты Барбары Радзівілянкі да караля Жыгімонта Аўгуста // Там жа. 1997. № 6; Ragauskienė R. Barbora Radvilaitė. Vilnius, 1999; Чаропка В. Каралева кахання Барбара Радзівіл // Беларускі гістарычны часопіс. 2002. № 6.

***Валерый Пазднякоў.***

**Барбашоў** (Барбашев) Аляксандр Іпалітавіч [9(21).5.1858, Пецярбург—?], расійскі гісторык. Магістр рус. гісторыі (1886). Скончыў гісторыка-філал. ф-т Пецярбургскага ун-та. Выкладаў у сярэдніх навуч. установах Пецярбурга. Вывучаў унутраную і знешнюю палітыку вял. князя ВКЛ Вітаўта, барацьбу літ., рус., бел. і ўкр. народаў супраць Тэўтонскага ордэна. Шырока выкарыстоўваў беларуска-літоўскія летапісы. Працы Б. скіраваны супраць польскай гістарыяграфічнай традыцыі ў вывучэнні гісторыі ВКЛ 14—16 ст. ВКЛ трактавалася ў іх як частка Рус. дзяржавы.

*Тв.*: Витовт и его политика до Грюнвальденской битвы. (1410 г.). СПб., 1885; Танненбергская битва // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1887. № 12; Летописные источники для истории Литвы в средние века. СПб., 1888; Торнский мир (1411 г.) // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1890. № 11; Витовт: Последние двадцать лет княжения, 1410—1430. СПб., 1891; Мелкие исторические заметки. СПб., 1905.

***Дзмітрый Караў.***

**Барвінскі** (Барвінський) Багдан Аляксандравіч (15.7.1880, г. Цярнопаль—8.2.1958), укр. гісторык. Д-р філасофіі (1907). Вучыўся ў Львоўскім (1898—1901), Венскім (1901—02) і Берлінскім (1907) ун-тах. Працаваў у Львове ў Архіве актаў гродскіх і земскіх (1901—03), б-ках Львоўскага ун-та (1908—19) і «Народнага дома» (1919—22). Прафесар Укр. тайнага ун-та (1921—23). У 1921—39 выкладаў у львоўскіх гімназіях, бараніў укр. школьніцтва ад палітыкі польскіх улад. Дырэктар б-кі Львоўскага ун-та (1939—42), пасля ў б-цы «Народнага дома» (1942—44), заг. аддзела рукапісаў філіяла б-кі АН УССР у Львове (1944—47). Працы па гісторыі ВКЛ 14—16 ст., архіўнай справе, сфрагістыцы, геральдыцы, генеалогіі Украіны.

*Тв.*: Жигимонт Кейстутович, великий князь литовсько-руський (1432—1440). Жовква, 1905; Історичні причинки: розвідки, замітки, матеріали до історії України-Руси. Т. 1—2. Жовква; Львів, 1908—09; Pieczęcie książąt halicko-włodzimierskich z pierwszej połowy XIV w. // Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne. 1909. ą 6—8; Nieznana pieczęć ruska księcia Kiejstuta z roku 1366// Там жа. 1909. № 11; Pieczęć ruska Wojdyły z r. 1380: (Przyczynek do sfragistyki litewskiej) // Там жа. 1910. № 9; Sprostowania i uzupełnienia do artykułu ks. J.Puzyny p.t. «O pochodzeniu kniazia Fedka Nieświezkiego» // Miesięcznik heraldyczny. 1912. ą 1/2; Кілька документів і заміток до часів вел. князів Свидригайла і Жигмонта Кейстутовича // Записки Наукового товариства ім. Шевченка. Львів, 1913. Т. 115; Крайовий архів гродських і земських актів у Львові. Львів, 1917; Причинки до польсько-української геральдики і сфрагістики // Записки Наукового товариства ім. Шевченка. Львів, 1925. Т. 138—140; Wypraszanie od kary śmierci w dawnym prawie polskim w XVI—XIX w. Lwów, 1925.

*Літ.*: Дзьобан О.О. Богдан Барвінський — український історик, педагог, бібліотекар, архівіст, журналіст: (За архівними матеріалами) // Українська періодика: історія і сучасність. Доповіді та повідомлення п'ятої Всеукраїнської науково-теоретичної конференції, 27—28 листопада 1998 р. Львів, 1999.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бардах** (Bardach) Юліуш (н. 3.11.1914, г. Адэса), польскі гісторык права. Чл. Польскай АН (1989), доктар (1948), праф. звычайны (1960). Скончыў факультэт права і грамадскіх навук Віленскага ун-та (1939). Працаваў рэдактарам час. «Robotnik» («Рабочы») у Вільні (1938—39). У гады 2-й сусв. вайны на фронце, афіцэр польскай арміі Берлінга ў СССР, да 1950 у Войску Польскім. У 1950—2004 выкладаў у Варшаўскім ун-це, адначасова ў 1954—68 дырэктар Ін-та гісторыі права пры гэтым ун-це, у 1957—59 нам. дырэктара Ін-та юрыд. навук Польскай АН, у 1961—69 кіраўнік аддзела гісторыі дзяржавы і права Ін-та гісторыі Польскай АН. З 1980 старшыня, з 1985 ганаровы старшыня Міжнар. камісіі славістычных даследаванняў. Даследуе грамадска-паліт. лад і права Польшчы і ВКЛ 14—18 ст., звычаёвае права Беларусі і Літвы, Статуты ВКЛ, праблемы гістарыяграфіі, метадалогіі гісторыі і інш.

*Тв.*: Historia państwa i prawa Polski do roku 1795. Cz. 1. Do połowy XV w. Warszawa, 1957 (4 выд. 1973); Studia z ustroju i prawa Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV—XVII wieku. Białystok; Warszawa, 1970; Historia państwa i prawa polskiego. Warszawa, 1976 (у сааўт., 5 выд. 1987); Литовские статуты — памятники права периода Возрождения// Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в. М., 1976; К вопросу об утверждении Литовского статута 1588 г.// Славяне в эпоху феодализма. М., 1978; История государства и права Польши. М., 1980 (у сааўт.); O dawnej i niedawnej Litwie. Poznań, 1988; Historia ustroju i prawa polskiego. Warszawa, 1993 (у сааўт., 7 выд. 2003); Themis a Clio czyli prawo a historia. Warszawa, 2001; Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002 (змешчана бібліяграфія прац Б.).

**Баркулабава**, Баркалабава (цяпер вёска ў Быхаўскім р-не Магілёўскай вобл. Рэспублікі Беларусь), мястэчка ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв., на р. Дняпро. Назва паходзіць ад імя ротмістра і дзісенскага старасты Баркулаба Іванавіча Корсака, які быў саўладальнікам маёнтка Буйнічы (тутэйшыя землі ўваходзілі ў яго склад) і ў 1564 заснаваў тут замак, «заклікаўшы на волю і даўшы свабоду ў год дванаццаць людзям прыхожым». Да 1568 пабудаваны 2 царквы. У 1583 у якасці пасагу перайшло да кн. Б.І.Саламярэцкага, які ўзяў шлюб з дачкой Корсака Евай. У 1594 заснавана царква св. Георгія (Юрыя), да яе парафіі належалі вёскі Хадуцічы, Ліпаўка, Навасёлкі, Лежнева, мяст. Багданава. У 1641 заснаваны *Баркулабаўскі Узнясенскі манастыр*. Ён стаў буйным цэнтрам апазіцыі уніяцтву на Беларусі. Ад Саламярэцкіх мястэчка перайшло да Статкевічаў. Пазней Б. набыў кн. А.Г.Палубінскі. У 1685 мястэчка ў якасці пасагу атрымаў Е.С.Сапега, што ажаніўся з дачкой Палубінскага Ізабелай. Затым належала іх сыну Антонію Казіміру, пляменнікам апошняга Аляксандру Міхалу і Міхалу Ксаверыю Сапегам. У 1758



Баркулабаўскі абраз Маці Божай.

у мястэчку 171 жыхар мужч. полу, 64 двары, бровар, саладоўня, маслабойня. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Баркулабаўскі абраз Маці Божай.** Захоўваецца ў Троіцкай царкве г. Быхаў Магілёўскай вобл. Першапачаткова знаходзіўся ў правасл. *Баркулабаўскім Узнясенскім манастыры* (адсюль назва абраза), заснаваным Б.В.Статкевічам у 1641. У манастырскім архіве захоўвалася легендарнае паданне аб паходжанні абраза. Паводле яго, у 1659 нейкі «князь вояў рускіх» Пажарскі вяртаўся «з Польшчы», маючы пры сабе патаемна абраз Багародзіцы. Калі атрад князя праходзіў каля манастыра, «абраз стаў нерухомы» і ніякія намаганні людзей не маглі зрушыць яго з месца. Пажарскі зразумеў, што абраз жадае застацца ў манастыры і перадаў яго ігуменні Фаціннi Кіркораўне. Тут абраз праславіўся многімі цудамі, аб чым сведчылі яго шматлікія копіі ў навакольных цэрквах. Найвялікшым цудам лічыцца тое, што абраз перажыў усе войны 18—20 ст. і ганенні на рэлігію 20 ст. Баркулабаўская Адзігітрыя, намаляваная тэмперай на хваёвай аснове з пазалочаным разьбяным фонам, з'яўляецца адным з найвялікшых шэдэўраў бел. школы іканапісу, разам з тым захоўвае выразныя рысы яго стараж.-візант. асновы. Навукоўцы выказваюць меркаванне, што абраз створаны на мяжы 16—17 ст. ці ў 1-й пал. 17 ст. ў цэнтр.-бел. рэгіёне (магчыма, у Слуцку). Святкаванне абраза 11 ліпеня, у дзень яго з'яўлення ў Баркулабаўскім манастыры.

*Літ.*: Пискун Ю. Чудотворная икона Божией Матери Борколабовской и ее списки // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць. Магілёў, 2003. Ч. 1.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Баркулабаўскі летапіс**, Баркулабаўская хроніка, Баркалабаўскі летапіс, помнік бел. летапісання пач. 17 ст. Захаваўся ў адзіным спісе ў т.зв. Патрыяршым рукапісе 3-й чвэрці 17 ст., які зберагаецца ў Дзярж. гіст. музеі ў Маскве. Складзены ў мяст. *Баркулабава* хутчэй за ўсё мясц. правасл. святаром Фёдарам Філіпавічам Магілёўцам. Пачынаецца са звестак пра сойм 1545 у Берасці, пабудову ў 1526 Магілёўскага замка. Больш сістэматызавана выкладзены падзеі з 1563 (захоп Полацка Іванам Грозным) да 1608. Найб. падрабязна апісаны перыяд з 1580-х г. да пач. 17 ст. У Б.л. змешчаны каштоўныя звесткі па гісторыі ўсх. Беларусі і, часткова, Літвы, Польшчы, Расіі: інфармацыя пра асобныя ваенна-гіст. падзеі, з гісторыі бел. культуры і правасл. царквы, пра гіст. асоб, у т.л. двух Ілжэдзмітрыяў, пра ўзнікненне мяст. Баркулабава і іншы гіст.-краязнаўчы і этнаграфічны матэрыял. Разгорнута апісаны прысвечаны пытанням уніі Берасцейскі царкоўны сабор 1596, у якім удзельнічаў аўтар. Асноўнымі крыніцамі для Б.л. паслужылі асабістыя назіранні і ўспаміны аўтара, выкладзеныя ў яркіх эмацыянальных замалёўках, жыццё і побыт бел. вёскі ў цяжкія часы разбуральных ваенных паходаў, розных стыхійных бедстваў і голаду. Летапісец быў блізкі да народа і асвятляў падзеі з патрыятычных пазіцый. У прыватнасці, ён асуджаў дзеянні запарожскіх казакоў, якія на Беларусі «вялікую шкоду чынілі... горш, чым злыя непрыяцелі». Усё гэта надае Б.л. рысы помніка гіст.-мемуарнага жанру. У летапіс уключаны ліст Івана Грознага да Стафана Баторыя 1580, грамата Жыгімонта III 1592, «Універсал рокашу 1606». У жанравых адносінах Б.л. — хроніка, у якой перамяжоўваюцца дакументальныя запісы з гіст.-мемуарнымі замалёўкамі. Твор кампазіцыйна рыхлы, літаратурна недапрацаваны. Трапляюцца недакладнасці ў датаванні гіст. падзей, іншыя фактычныя памылкі. Напісаны жывой бел. мовай, вобразнай і каларытнай. Упершыню апублікаваны ў 1877 укр. пісьменнікам і вучоным П.А.Кулішам. Найб. ўклад у вывучэнне Б.л. зрабілі М.В.Доўнар-Запольскі, А.Ф.Коршунаў і Н.Т.Вайтовіч.



Старонка **Баркулабаўскага летапісу**.

*Публ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975; Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.

*Літ.*: Довнар-Запольский М.В. Баркулабовская летопись. Киев, 1908; Мальцев А.Н. Баркулабовская летопись //Археографический ежегодник за 1960 г. М., 1962; Вайтовіч Н.Т. Баркулабаўскі летапіс. Мн., 1977.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Баркулабаўскі Узнясенскі манастыр.** Існаваў у мяст. *Баркулабава* ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв. У 1626 кн. Б.Б.Саламярэцкі з сястрой Аленай выдаў ліст на заснаванне ў Баркулабаве мужчынскага Святадухаўскага манастыра, запісаўшы яму акрамя зямель у мястэчку вёскі Касцянаўку, Воронаўку і Стайкі. Аднак гэты манастыр быў адчынены спадкаемцамі князя ў Буйнічах (гл. *Буйніцкі Святадухаўскі манастыр*). У Баркулабаве ў 1641 швагер Саламярэцкага Б.В.Статкевіч заснаваў жаночы Узнясенскі манастыр. Манастыру былі дадзены мяст. Баркалабава з замкам, ваколічныя землі, права лавіць рыбу ў Дняпры. Б.У.м. быў падпарадкаваны *Куцеінскаму Богаяўленскаму манастыру*, ігумен якога *Іаіль* Труцэвіч атрымаў даручэнне ўладкаваць новазаснаваны

манастыр. З Куцеінскага манастыра ў Баркулабаўскі перавялі частку манашак. У 1648 у манастыры збудавана драўляная Узнясенская царква, потым — царква Іаана Прадцечы. У манастыры зберагаўся *Баркулабаўскі абраз Маці Божай*, які лічыўся цудатворным. Манастыр зачынены ў 1930, асн. пабудовы знішчаны ў 1943 ням. фашыстамі.

*Літ.*: Ж у д р о Ф.А. Борколабовский Свято-Вознесенский женский монастырь Могилевской епархии. Могилев-на-Днепре, 1906.

***Валерый Пазднякоў.***

**барока** (італьян. barocco літар. — вычварны, дзіўны), вызначальны стыль у еўрап. мастацтве канца 16—сярэдзіны 18 ст., які ўзнік на аснове традыцый позняга *Адраджэння*. Першапачатковы этап развіцця Б. звязаны з узмацненнем каталіцызму ў Зах. Еўропе. Стыль Б. шырока выкарыстоўваўся для прапаганды ідэй *контррэфармацыі*. Эстэтыка Б. заснавана на проціпастаўленні ідэальнага і пачуццёвага ў чалавеку, яго волі і розуму з ірацыянальнасцю быцця. Мастацтва Б. вызначаецца эмацыянальным і інтэлектуальным напружаннем, складанасцю выяўл. сродкаў, імкненнем да сінтэтычнасці жанраў. Маст. прынцыпы — дынамічнасць кампазіцыі, кантрасты маштабаў, рытмаў, матэрыялаў і фактур, святлоценявыя і колерныя эфекты, крывалінейнасць абрысаў, імкненне стварыць ілюзію бязмежнай прасторы. Зарадзілася Б. ў 2-й пал. 16 ст. ў Італіі, найвышэйшага росквіту дасягнула ў Рыме ў сярэдзіне 17 ст. Станаўленне яго адбывалася ў перыяд складвання нацый і нац. дзяржаў, часткова звязана з барацьбой за нац. адзінства і антыфеад. рухам у шэрагу еўрап. краін. Гэта спрыяла сплаву эстэт. канцэпцыі Б. з мясцовымі маст. традыцыямі і фарміраванню яго нац. разнавіднасцей. У 1-й пал. 18 ст. Б. эвалюцыяніравала да лёгкасці стылю ракако, суіснавала і перапляталася з ім, а з 1770-х г. паступова выцеснена класіцызмам.

У ВКЛ для мастацтва Б. характэрна ўзаемадзеянне зах.-еўрап. ўплыву з візант. і мясц. традыцыямі, што надало яму нац. самабытнасць. Найб. поўна Б. праявілася ў архітэктуры; у залежнасці ад яе развівалася выяўл. і дэкар.-прыкладное мастацтва. Пачатак эпохі Б. звязаны з будаўніцтвам першых твораў архітэктуры — Нясвіжскага касцёла (1587—93, гл. ў арт. *Нясвіжскі езуіцкі калегіум* ), *Віленскага касцёла Казіміра*. Развіццё мясцовай разнавіднасці Б. ў манум. мураванай архітэктуры прайшло 3 перыяды: ранняе (канец 16—1-я пал. 17 ст.), сталае (2-я пал. 17—1730-я г.) і позняе (1730—80-я г.). Для ранняга перыяду характэрныя пошукі гал. чынам новых аб'ёмна-прасторавых кампазіцый у пабудовах, адпаведных эстэт. канцэпцыі Б. Асобныя збудаванні паступова трацілі абаронча функцыі, што адбілася на трансфармаванні замкавага буд-ва ў палацава-замкавае (*Нясвіжскі замак, Біржанскі замак, Гальшанскі замак*). У



Да арт. **Барока**. Галоўны алтар касцёла францысканцаў у Пінску. 1730-я г.



Да арт. **Барока**. Інтэр'ер касцёла езуітаў у Гародні. 18 ст.

культавым дойлідстве паступова пашырыўся базілікальны тып храма з плоскім гал. фасадам, напачатку бязвежавым, потым 2-вежавым (*Дзятлаўскі касцёл*, касцёлы *Будслаўскага кляштара бернардзінцаў*, *Гарадзенскага езуіцкага калегіума*, касцёлы Пятра і Паўла *Віленскага кляштара канонікаў латэранскіх*, Філіпа і Якуба *Віленскага кляштара дамініканцаў*, Францішка Ксаверыя *Ковенскага езуіцкага калегіума*, касцёл у Варнях). Перыяд сталага Б. вызначаўся стабілізацыяй кампазіцыі 2-вежавай базілікі і развіццём маст. характарыстык арх. збудаванняў, павелічэннем колькасці ярусаў вежаў, большай пластычнай насычанасцю фасадаў (*Слонімскі Андрэеўскі касцёл*). Сталае і позняе Б. знайшло ўвасабленне ў грамадз. архітэктуры (*Магілёўская ратуша*, Віцебская ратуша) і ў развіцці прынцыпаў ансамблевасці арх. комплексаў (*Пажайскі кляштар камедулаў*, *Цітавянскі кляштар бернардзінцаў*, *Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў*, *Полацкі езуіцкі калегіум*). Найб. важны з іх — паступовае разгортванне арх. аб'екта (плошчы, вуліцы, сядзібы) перад гледачом. Палацавыя комплексы сталага і позняга Б. будаваліся паводле сіметрычна-восевай схемы з паўадкрытыміараднымі дварамі. Фасады і інтэр'еры палацаў аздаблялі ордэрнай пластыкай, дэкар. лепкай, паліхромнымі



Да арт. **Барока**. Маці Божая Адзігітрыя. 1648—50. Маларыцкі майстар.

мармурамі, паліванай керамікай, фрэскавай размалёўкай (палацы Пацаў і Масальскіх у Вільні, Гародні і Коўна, Сапегаў і Слушак у Вільні, *Ружанскі палацавы комплекс*). Маст. сістэма позняга Б. ў манум. культавай архітэктуры ВКЛ атрымала ў мастацтвазнаўстве назву *віленскага барока*. Важную ролю ў стварэнні своеасаблівай школы віленскага Б. адыграла творчасць арх. І.К.*Глаўбіца*, І.Фантана III, Л.Грынцэвіча, А.Асікевіча. У канцы 18 ст. ў мураванае дойлідства паступова ўкараняліся прынцыпы класіцызму, што прывяло да стварэння шматлікіх помнікаў, якія спалучалі элементы 2 стыляў (*Свяцкі палацава-паркавы ансамбль*). У адпаведнасці з этапамі развіцця стылю Б. адбываліся змены ў эстэт. і канструкцыйных характарыстыках арх. збудаванняў. Дэкар. пластыка, аснову якой у Б. складала ордэрная сістэма, на працягу 17—18 ст. перайшла ад адзіночных плоскіх пілястраў і сціплых гарыз. цягаў да шматлікіх раскраповак, хвалістых карнізаў, стукавай лепкі ў аздобе будынкаў. Спецыфіка дрэва як буд. матэрыялу абумовіла непарыўнасць эстэт. і тэхн. бакоў у стварэнні шматлікіх маст.-канструкцыйных прыёмаў драўлянага дойлідства часоў Б.: ярусная структура вежаў, іх завяршэнне шасцерыкамі і васьмерыкамі, верт. шалёўка з нашчыльнікамі (Валавельская Юр'еўская царква, Рубельская Міхайлаўская царква).



Да арт. **Барока**. Партрэт Тэклі Ружы Флемінг, народжанай Радзівіл. Мастак Луі дэ Сільвестр Малодшы. 1720-я г.

У выяўленчым мастацтве рысы Б. праявіліся ў 1-й пал. 17 ст., найбольш у скульпт. аздабленні і размалёўках касцёлаў. У скульптуры Б. характарызавалася працягам традыцый мясцовых майстроў, што абумовіла яе самабытнасць і разнастайнасць вобразных характарыстык (інтэр'еры *Полацкага Сафійскага сабора*, касцёлаў францысканцаў у Пінску, езуітаў у Гародні, касцёла Пятра і Паўла ў Вільні, касцёла *Міхалішкаўскага кляштара аўгусцінцаў*). У манум. жывапісе рысы Б. відавочныя ў размалёўках *Магілёўскага кляштара кармелітаў*, *Гарадзенскага кляштара францысканцаў*, Пажайскага кляштара камедулаў, у іканастасах (Магілёўская Мікалаеўская царква) і алтарах *Пінскага кляштара францысканцаў* і інш. У 2-й пал. 18 ст. стыль Б. стаў пануючы і ў *іканапісе*, дзе яго рысы спалучаліся з традыцыямі візант. і стараж.-рус. мастацтва. Кампазіцыі абразоў набылі падкрэслены дынамізм, персанажы — характарнасць і канкрэтнасць, у асобных выпадках — натуралізм. Пашыранымі відамі жывапісу ў часы Б. былі парадны *партрэт сармацкі*, лепшыя ўзоры якога прываблівають яркай характарнасцю тыпажу, а часам і псіхалагізмам вобразаў, а таксама *партрэт данатарскі* і *партрэт пахавальны*. Стваральнікамі партрэтаў у асноўным былі ананімныя цэхавыя мастакі, але захаваліся імёны некат. жывапісцаў: І.*Шрэтэр*,

Д.*Шульц*, С.*Цыбульскі*, бацька і сын *Гескія*. У канцы 18—1-й пал. 19 ст. Б. саступае месца класіцызму, хоць іх элементы ў жывапісе суіснавалі амаль да сярэдзіны 19 ст. У графіцы стыль Б. найб. выявіўся ў кніжнай гравюры. У 17 ст. працавалі Т.*Макоўскі*, А.*Тарасевіч*, Л.*Тарасевіч*, у 18 ст. — Г.*Ляйбовіч*, Ф.*Бальцэвіч*, Я.Пятроўскі, М.*Чаплінскі*, І.*Карэнга*. Майстры кнігі 16—18 ст. выпрацавалі спецыфічны стыль бел. Б., які вызначаўся стрыманасцю форм, сувяззю з нар. мастацтвам. У 16 ст. ўзнік жанр геральдычнай гравюры (гербы Р.А.Хадкевіча ў «Евангеллі вучыцельным» і «Псалтыры», выдадзеных



Да арт. **Барока**. Царскія вароты Давыд-Гарадоцкай Георгіеўскай царквы. Сярэдзіна 18 ст. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

*Заблудаўскай друкарняй*). У пазнейшых геральдычных гравюрах рысы Б. набывалі ўсё больш развітыя формы, узмацніліся экспрэсія і патэтыка (гербы Л.Сапегі ў Статуце ВКЛ 1588, Л.Мамоніча ў «Псалтыры», выдадзеных ў Вільні, Агінскіх і Валовічаў у «Евангеллі вучыцельным» *Еўінскай друкарні*). З пераездам *Куцеінскай друкарні* ў Рас. дзяржаву (сярэдзіна 17 ст.) стыль бел. Б. пашырыўся і ў рас.



Да арт. **Барока**. Пакланенне вешчуноў. 1723—28. Басценавіцкі майстар.

выданнях, надрукаваных куцеінскімі друкарамі ў Іверскім манастыры (гравюры «Раю мысленнага», «Брашна духоўнага»). Пранік ён у рас. кніжнае мастацтва і праз ілюстраваныя выданні Сімяона Полацкага (медзярыты «Гісторыі пра Варлаама і Іасафа», «Псалтыры рыфмаванай»). Найб. развіцця дасягнулі прынцыпы Б. ў выданнях *Магілёўскай друкарні*, дзе працавалі гравёры М.Я.*Вашчанка* і В.М.*Вашчанка*, Ф.*Ангілейка*, Афанасій Пігарэвіч і інш. У 17 ст. бел. графічнае Б. паўплывала і на ўкр. графіку, што звязана з пераездам на Украіну гравёраў, асабліва Тарасевічаў. Маст. прынцыпы Б. яскрава выявіліся ва ўсіх відах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва: ткацтве (*слуцкія паясы*, шпалеры), вырабах са шкла (гл. *Урэцкая шкляная мануфактура*), паліванай кераміцы (гл. ў арт. *Кафля*), разьбе па дрэве (гл. *Беларуская рэзь*), ювелірным мастацтве.

Для л і т а р а т у р ы эпохі Б. характэрны ўскладненасць, парадаксальнасць, метафарычнасць, спалучэнне рэальнага з нерэальным, імкненне здзівіць, уздзейнічаць на пачуцці. Стылявыя прыкметы Б. нераўназначныя на розных этапах развіцця і ў розных жанрах, што дазваляе гаварыць пра яго розныя стылявыя ўзроўні. Побач з «высокім» Б. ў панегірычнай паэзіі, трагедыі, гераічнай паэме развівалася «памяркоўнае» Б. — рэліг. і свецкая лірыка, элегія, пастараль, прытча. На «сярэднім» узроўні ўзніклі такія празаічныя жанры, як падарожжа, утопія, паліт. трактат. У л-ры ВКЛ Б. найб. выразна выявілася ў пераходны перыяд, асабліва ў 2-й пал. 17—1-й трэці 18 ст. і было цесна звязана з ідэямі контррэфармацыі, што асабліва адчуваецца ў містычнасці ідэалу і рытарычнай зададзенасці, але як маст. светаўспрыманне значна шырэй за іх. Эстэтыка Б. была крокам наперад у маст. развіцці Беларусі. Тут сінтэзаваліся сярэдневяковыя і рэнесансавыя традыцыі, упершыню скрыжаваліся шляхі развіцця пісьмовай л-ры і фальклору. Б. ВКЛ не былі чужыя ідэі гуманізму ранняга Асветніцтва (Сімяон Полацкі, Д.Рудніцкі). Асобныя рысы Б. відаць ужо ў палемічнай прозе і панегірычнай паэзіі 1-й пал. 17 ст., калі эстэтыку Б. пашыраў выкладчык Полацкага езуіцкага калегіума М.*Сар*-




Да арт. **Барока**. Т.М а к о ў с к і. Тытул панегірыка св. Казіміру. 1610. Медзярыт.

*беўскі*. Найб. поўна яны выявіліся ў рэліг.-філас. паэзіі і школьнай драме, а таксама ў школьных курсах паэтыкі і рыторыкі. Л-ры Б. ўласцівыя розныя ідэйныя і фармальна-стылявыя тэндэнцыі. Побач з «высокім», найчасцей элітарным, арыстакратычным Б., асн. творы якога напісаны на польск., лац. і царк.-слав. мовах, існавала «сярэдняе» і «нізкае» Б. Яно адпавядала запатрабаванням бяднейшай шляхты, гараджан і было



прадстаўлена парадыйна-сатыр. і гумарыстычнай паэзіяй і прозай («Птушыны баль», *«Ліст да Абуховіча»*, «Казанне рускe», «Прамова русіна» і інш.), інтэрмедыямі да школьных драм, песенна-інтымнай лірыкай.

У ВКЛ для музыкі Б. характэрна ўзаемадзеянне зах.-еўрап. уплываў з мясц., часта нар. традыцыямі, перапляценне рэнесансавых, сярэдневяковых і класіцысцкіх тэндэнцый. Гэта выявілася ў суіснаванні розных стылявых пластоў і кірункаў — знаменнай манодыі, аднагалосага харала перыяду Рэфармацыі, стылю а капэла і новага канцэртнага стылю, які з канца 17 ст. стаў дамінуючым. Усёй музыцы Б. ўласцівы працілеглыя імкненні, з аднаго боку, да сінтэзу мастацтваў, з другога — да развіцця інстр. жанраў. Гэта рэалізавалася ў пышных пастаноўках школьнага т-ра, у насычэнні музыкай спектакляў батлейкі, у пашырэнні на пач. 17 ст. аркестраў (капэл) пры дварах магнатаў, калегіумах, касцельных і уніяцкіх ансамбляў, што культывавалі тагачасныя еўрап. прыдворныя танцы (павана, фолія куранта, сэра і інш.), польск. і мясц. нар. танцы. Гіст. значэнне музыкі Б. найперш у тым, што яна вылучыла новы шматгалосы стыль — *партэсныя спевы*, якія своеасабліва рэалізавалі кампазіцыйны прынцып канцэртнасці з тыповымі для яго жанрамі партэснага канцэрта ў царк. музыцы, *канта* і *псальмы* ў свецкай. Яскравыя ўзоры муз. твораў з выразнымі стылявымі рысамі Б. змяшчаюць рукапісныя зборнікі старадаўняй музыкі 16—17 ст. *«Полацкі сшытак»*, «Віленская табулатура» і інш.

Тэатр. культура Б. ў ВКЛ існавала і развівалася ў рэчышчы тэатр. культуры Рэчы Паспалітай. З канца 16 ст. актыўным праваднікам тэатр. формаў Б. быў *школьны тэатр*. У сярэдзіне 17 ст. існаваў *Віленскі велікакняжацкі тэатр*. У ВКЛ былі папулярныя розныя формы паратэатра Б. — маляўнічыя рэліг. і свецкія шэсці, святочныя ўрачыстасці, рыцарскія спаборніцтвы. У гэты час з касцельных відовішчаў узнік нар. лялечны тэатр *батлейка*. На схіле эпохі Б. (1740—70-я г.) узніклі шматлікія прыдворныя т-ры, што належалі мясц. магнатам: *Нясвіжскі тэатр Радзівілаў, Слуцкі тэатр Радзівіла, Слонімскі тэатр Агінскага, Гарадзенскі тэатр Тызенгаўза, Ружанскі тэатр Сапегаў* і інш. У пастаноўках гэтых тэатраў, якія часта абапіраліся на арыгінальную (звычайна польскамоўную) драматургію і музыку, спалучаліся рысы барочных відовішчаў з элементамі, характэрнымі ўжо для Асветніцтва. Але менавіта сінтэз, уласцівы Б., дазваляў ствараць незвычайныя па сваёй пышнасці і фантазійнасці тэатр. відовішчы. На высокім узроўні была тэхніка сцэны прыдворных тэатраў, а акцёры і музыкі, вывучаныя ў магнацкіх тэатр. школах ВКЛ, паўплывалі на тэатр. мастацтва Польшчы і Расіі.

*Літ.*: Кацер М.С. Изобразительное искусство Белоруссии дооктябрьского периода: Очерки. Мн., 1969; Яго ж. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.). Мн., 1972; Angyał E. Świat słowiańskiego baroku. Warszawa, 1972; Костюковец Л.Ф. Кантовая культура в Белоруссии. Мн., 1975; Narbut O. Barok: Sztuka — literatura — filozofia. Wrocław, 1976; Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII—XVIII ст.). Мн., 1980; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў. Мн., 1984; Tazbir J. Kultura polskiego baroku. Warszawa, 1986; Vaišvilaitė I. Baroko pradžia Lietuvoje. Vilnius, 1995; Ulčinaitė E. Lietuvos baroko literatūra. Vilnius, 1997; Barok w Polsce i w Europie Środkowo-Wschodniej: Drogi przemian i osmozy kultur: Materiały konferencji naukowej «Barok w krajach Europy Środkowej i Wschodniej» (Warszawa, 23—25 marca 1999 г.). Warszawa, 2000; Барока ў беларускай культуры і мастацтве. 2 выд. Мн., 2001; Лазука Б.А. Беларускае барока: Гісторыка-тэарэтычныя праблемы стылю. Мн, 2001; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001; Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės barokas: formos, įtakos, kryptys. Vilnius, 2001; Жывапіс барока Беларусі Мн, 2003; Страчаная спадчына. 2 выд. Мн., 2003.

***Тамара Габрусь*** (архітэктура),
***Барыс Лазука*** (выяўленчае мастацтва),
***Адам Мальдзіс*** (літаратура),
**Ларыса Касцюкавец** (музыка),
***Вацлаў Арэшка*** (тэатр).

**Баронас** (Baronas) Дарус (н. 17.6.1973, г. Вільнюс), літоўскі гісторык, археограф. Д-р гуманітарных н. (2001). Скончыў Вільнюскі ун-т. З 1995 працуе ў аддзеле археаграфіі Ін-та гісторыі Літвы. Даследуе хрысціянізацыю Літвы ў 13—15 ст., правасл. культуру ВКЛ, гісторыю еўрапейскага сярэдневякоўя і Русі. Аўтар кн. «Тры віленскія мучанікі: гісторыя і жыцце (гістарычнае даследаванне і крыніцы)» («Trys Vilniaus kankiniai: istorija ir gyvenimas (istorinė studija ir šaltiniai)», Вільнюс, 2000). Падрыхтаваў да выдання кнігу публічных спраў № 8 Метрыкі ВКЛ (Вільнюс, 1999, з Л.Ёвайшам).

*Тв.*: Stačiatikiai // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštijos kultūra. Vilnius, 2001; По поводу литературной истории Мучения трех Виленских мучеников // Krakowsko-Wileńskie studia slawistyczne. 2001. T. 3; Lithuania's entry into Christendom (1009—1387) // Christianity in Lithuania. Vilnius, 2002; Paskutinė Šv. Brunono Kverfurtiečio misija geopolitikos kontekste // Lietuvos istorijos metraštis. 2001 metai. Vilnius, 2002. Ñ. 2.

**Барская канфедэрацыя**, ваенна-палітычны саюз шляхты Рэчы Паспалітай супраць караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і рас. пратэктарату над краінай. Створана 29.2.1768 у мяст. Бар (Падольскае ваяв.) па ініцыятыве камянецкага біскупа А.С.Красінскага пад кіраўніцтвам яго брата ражанскага падкаморыя М.Красінскага (маршалак) і варэцкага старасты Ю.Пуласкага (рэгіментар). Выступіла за непарушнасць прывілеяў шляхты і каталіцкай царквы, супраць рэформ існуючага ладу і ўраўнавання іншаверцаў (дысідэнтаў) у правах з каталікамі. Абвяшчэнне Б.к. адразу справакавала антыфеад. выступленне ўкр. сялян (Каліїўшчына), якое было падаўлена сумесна войскамі Расіі і Рэчы Паспалітай. Адгалоскі Каліїўшчыны праявіліся ў *Шаўліскім паўстанні 1769*, руху *гайдамакаў* у Мазырскім і Рэчыцкім паветах (1768—69). У барацьбе за незалежнасць краіны канфедэраты падзяляліся на тых, хто шукаў падтрымкі з боку Турцыі, Францыі, Аўстрыі і Саксоніі, і тых, хто разлічваў на ўласныя сілы. Пасля разгрому пад Барам 20.6.1768 частка канфедэратаў асела ў Турцыі (якая абвясціла вайну Расіі), а частка — у Венгрыі (Мушын) і Сілезіі. Лідэры Б.к. байкатавалі скліканы каралём на 7.11.1768 прымірэнчы сойм і вырашылі сабраць яго пад апекай уласных канфедэрацый, якія ў ВКЛ былі арганізаваны ў Вільні, Вількаміры, Коўне, Упіце, Ашмянах, Рэчыцы, Ваўкавыску, Берасці, Слоніме, Мсціславе, Навагародку і інш. З надзеяй на дапамогу з боку віленскага ваяводы К.С.*Радзівіла* 19 маршалкаў канфедэрацый сабраліся ў Нясвіжы, аднак 10—13.10.1768 капітулявалі і разам з Радзівілам 29.10.1768 далі публічнае абяцанне быць паслухмянымі рас. ураду. Ролю лідэраў узялі на сябе браты К. і Ю. Пуласкія, якія ў чэрв.—ліп. 1769 зрабілі рэйд з Пулаў на



Кіраўнікі **Барскай канфедэрацыі**. Гравюра.

Берасце, Воўчын, Камянец, Мсцібаў, Бераставіцу, Ваўкавыск. 11.7.1769 пад Слонімам яны пацярпелі паражэнне, былі адцеснены рас. войскамі пад мяст. Уладава, а 13.9.1769 разбіты А.В.Суворавым каля в. Арэхава Берасцейскага ваяв. Рассеяныя рэшткі канфедэратаў абвясцілі 6.8.1769 у мяст. Даспудзе Гарадзенскага пав. Генеральную канфедэрацыю ВКЛ на чале з зёлаўскім старастам М.Я.Пацам (маршалак) і крайчым ВКЛ Ю.Сапегам (рэгіментар). 7—9.11.1769 яна злучылася ў Белай (Сілезія) з кароннай канфедэрацыяй, утварыўшы агульную раду (Генеральнасць). Яна спачатку асела ў Спішы (Славакія), але з-за ганенняў пераехала ў Цешын (Сілезія), пасля ў Прэшаў (Славакія). Генеральнасць каламуцілі няспынныя звадкі вакол кандыдата на каралеўскі трон, адносна спосабаў вайны і камплектавання атрадаў, за пасады маршалкаў і рэгіментараў мясц. канфедэрацый, за славу лідэра вызвалення. З разлікам на дапамогу нейтральных дзяржаў Генеральнасць 9.4.1770 абвясціла бескаралеўе, а 9.8.1770 завочна асудзіла Станіслава Аўгуста Панятоўскага на смерць як узурпатара-тырана і заклікала вял. гетмана ВКЛ М.К.*Агінскага* збройна падтрымаць дэтранізацыю. Вясной 1771 канфедэраты з дапамогай французскіх інструктараў захапілі Чанстахову, Лянцкарону і прадпрынялі няўдалы паход на Варшаву. Агінскі ўзняў рэгулярныя войскі ВКЛ, 6.9.1771 разбіў пад Бездзежам рас. атрад палкоўніка А.Албічава, заклікаў маршалкаў мясц. канфедэрацый злучыцца з ім у «абарону веры, вольнасці і незалежнасці», аднак 22—23 вер. быў разбіты Суворавым у *Сталавіцкай бітве 1771*. Ён перадаў паўнамоцтвы польнага гетмана ковенскаму падчашаму Ш.Касакоўскаму, які з Шаўляў праз Коўна, Вількамір, Мядзел, Ігумен дайшоў 28.8.1771 да Жлобіна, дзе намагаўся падняць паўстанне ў паўн.-ўсх. ваяводствах ВКЛ. Рабункі і праследаванне праціўнікаў Б.к. не прынеслі яму падтрымкі. 24.10.1771 кароль пазбавіў яго



Да арт. **Барская канфедэрацыя**. Куртка канфедэрата.

гетманства, а Расія абвясціла канфедэратаў дзярж. злачынцамі і бунтаўшчыкамі, наклала на іх маёнткі кантрыбуцыі і секвестр. У адказ Генеральнасць 3.11.1771 зрабіла няўдалы замах на караля, што дыскрэдытавала яе ў Еўропе і прывяло да міжнар. ізаляцыі. Апошнія дыверсійна-партызанскія рэйды ў ВКЛ здзейснілі ў пач. 1772 берасцейскі маршалак А.Бянклеўскі з Мазовіі (на Шарашова, Ляхавічы, Петрыкаў, Дарашэвічы, дзе разбіты 2.2.1772) і серадзскі маршалак М.Валеўскі, які пацярпеў паражэнне 31.3.1772 пад Сямяцічамі. На лютаўскіх сойміках 1772 шляхта ВКЛ у прысутнасці рас. войск адраклася ад падтрымкі Б.к., апошнія арганізаваныя сілы якой былі разгромлены пад Кракавам 23.4.1772 і Лянцкаронай 18.5.1772. Генеральнасць самараспусцілася. Усяго ў Рэчы Паспалітай вызваленчы рух злучыў каля 20 тыс. чал. Б.к. стварыла абстаноўку грамадзянскай вайны, якую манархі Аўстрыі, Прусіі і Расіі скарысталі пад выглядам «замірэння анархіі» для правядзення *першага падзелу Рэчы Паспалітай*.

*Літ.*: Morawski S. Materiały do konfederacyi barskiej r. 1767—1768. T. 1. Lwów, 1851; Konfederacja barska: Wybór tekstów. Kraków, 1928; Michalski J. Schyłek konfederacji barskiej. Wrocław etc., 1970; Szczygielski W. Konfederacja barska w Wielkopolsce, 1768—1770. Warszawa, 1970; Przemiany tradycji barskiej. Kraków, 1972; Literatura barska. Wrocław, 1976; Konopczyński W. Konfederacja barska. T. 1—2. 2 wyd. Warszawa, 1991.

***Яўген Анішчанка.***

**Барташэвіч** Антоній (13.6.1726, Віленшчына—20.10.1768), педагог. У 1742 уступіў у ордэн езуітаў, з 1755 ксёндз. Выкладаў рыторыку і гісторыю ў Віленскай акадэміі (1757—58) і Слуцку (1759—61), пісар гістарычны ў Варшаве (1762—63), прэфект друкарні, бурсы і шпіталя ў Нясвіжы (1763—68). Удзельнічаў у дыскусіі па рэформе езуіцкіх школ. Свае погляды выклаў у кн. «Чатыры прамовы» («Orationes quatuor», Вільня, 1759), дзе ўхваляў рэфармаванае езуіцкае школьніцтва і ганіў дамашняе выхаванне шляхты.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971. С. 126—127.

***Валерый Пазднякоў.***

**Барташэвіч** Ян (псеўд. Валенты Барташэўскі, Walenty Bartoszewski; каля 1573, Літва—27.3.1645), педагог, паэт. У 1602 уступіў у ордэн езуітаў. Быў прапаведнікам і місіянерам у Вільні і Крожах. Рэгенс Віленскіх папскай і духоўнай семінарый (1615—16), суперыёр у Ворнях (1634—35). Знаўца матэматыкі і медыцыны. Быў вучыцелем А.С.*Радзівіла*. Аўтар брашур з вершамі: «Спевы

всёлых дзетак» («Pienia wesołych dziatek», Вільня, 1611; вершы на прыезд у Вільню караля і сенатараў), «Манодыя» («Monodia», «Сольная песня», Вільня, 1612), «Трэна дые» («Threno diae», «Галашэнні», Вільня, 1615; абедзве — апісанне жалобных цырымоній), «Партэнамеліка» («Parthenomelica», Вільня, 1613; песні ў гонар Маці Божай), «Пабудка» («Pobudka», Вільня, 1614), «Сведчанні аб працэсіі» («Dowody procesji», Вільня, 1618; абедзве — апісанне працэсій на свята Божага Цела), «Безаар са слёз людскіх» («Bezoar z łez ludzkich», Вільня, 1624; пра мор 1624), «Цень пахавання Пана Езуса» («Cień pogrzebu Pana Jezusowego», Вільня, 1630; апісанне велікапятнічных урачыстасцей).

***Валерый Пазднякоў.***

**Бартольд** (Bartold, Barthold, Bartolt) Кароль (28.10.1680, Цяханаўская зямля, Мазовія—24.5.1745), педагог, гісторык. Д-р філасофіі і тэалогіі (1711). У 1698 уступіў у ордэн езуітаў, з 1740 ксёндз. Вучыўся ў езуіцкіх навуч. установах, у т.л. ў Пултуску, Варшаве і Вільні. Выкладаў рыторыку, філасофію, тэалогію, кананічнае права ў Віленскай акадэміі (1711—12, 1716—19, 1725—26), Варшаве (1712—13), Навагародку (1714—16), Пінску (1719—21), Варшаве (1721—25, 1726—29). Рэктар езуіцкага калегіума ў Ломжы (1729—31), дома навіцыяту ў Вільні (1731—35), Віленскай акадэміі (1735—38), кіраўнік Літоўскай правінцыі езуіцкага ордэна (1738—41), прэпазіт дома прафесаў у Вільні (1741—45). Вёў барацьбу з піярамі за ўплыў у сферы адукацыі ў ВКЛ. Правёў рэформу езуіцкага школьніцтва ў ВКЛ, увёў у выкладанне як асобныя дысцыпліны геаграфію і гісторыю. Аўтар падручніка па гісторыі «Свята для першага класа» («Festum ecce primae classis», Вільня, 1719; 6 разоў перавыдаваўся ў 1721—40 пад назвай «Вобразы князёў і каралёў Польшчы», «Imagines principum et regum Poloniae»), якія асвятляў гісторыю Польшчы і Рэчы Паспалітай ад легендарных часоў да Аўгуста II. Выступаў за захаванне традыцыйных шляхецкіх вольнасцей, але рэгламентаваных пэўнай колькасцю законаў.

*Літ.*: Б и р а л о А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971. С. 43—44.

***Валерый Пазднякоў.***



**Барунскі абраз Маці Божай.**

**барты**, этнічная і сацыяльная група, гл. *Борці*.

**Барунскі абраз Маці Божай.** Знаходзіцца ў касцёле б. *Барунскага Петрапаўлаўскага манастыра*. У пач. 19 ст. быў адным з самых шанаваных на Віленшчыне, у цяперашні час — адна з найб. шануемых святынь Беларусі. Напачатку абраз належаў базыльянскаму манаху Іасафату Бражыцу, які ў 1671 быў ігуменам манастыра ў Полацку, трымаў абраз у келлі, памёр у 1683 у Віцебску. Базыльянскі гісторык І.Сцябельскі паведамляе, што яшчэ пры жыцці Бражыц аддаў абраз набожнаму Мікалаю Песляку, які заснаваў Барунскі манастыр (1692) і перадаў туды абраз. Ён уцалеў ад пажару 1707 і быў змешчаны ў асобным алтары адбудаванага ў 1715 храма. Упершыню абраз згадваецца ў 1705, а ў 1712 у Супраслі надрукавана кніга мітрапаліта Л.Кішкі аб яго цудах (перавыдадзена ў 1742). Вядома гравюра з абраза 18 ст. Паводле В.Навакоўскага, у пач. 19 ст. М.Важынскі ўзяў абраз у свой дом у Алянах, а базыльянам узамен даў копію. Пасля перадачы Барунскага храма католікам (1919) у 1926 абраз вернуты Важынскімі ў касцёл, у 1927 адрэстаўрыраваны віленскай мастачкай Г.Шрамоўнай. Іканаграфія абраза — Адзігітрыя, дзіця на левай руцэ, апранута ў белы хітон, злёгку адхілена ад Маці. Марыя ў хітоне вішнёвага колеру і сіне-зялёным мафорыі, нізка апушчаным на лоб. Вакол галоў слабое свячэнне з прамянямі. Фон карычневы, з кірылічнымі манаграмамі Маці Божай і Хрыста. У каталогу Віленскай дыяцэзіі 1935 абраз характарызуецца як наяўны і цудадзейны. Лёс абраза пасля 1939 дакладна не высветлены. Магчыма, цяперашні абраз у Барунскім касцёле — толькі копія. Паводле вусных звестак, арыгінал загінуў у час 2-й сусв. вайны ў выніку неадпаведных умоў захоўвання.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Барунскі Петрапаўлаўскі манастыр.** Засн. як базыльянскі Мікалаем Песляком у 1692 у мяст. Баруны Ашмянскага пав. (цяпер вёска ў Ашмянскім р-не). Уключае царкву, манастырскі корпус, вежу-званіцу і капліцу. У 1692 пабудавана драўляная царква, у 1700—07 на яе месцы — мураваная (згарэла, у 1715 адбудавана, не захавалася). Новая мураваная царква пабудавана ў 1747—57 паводле праекта архітэктара А.Асікевіча ў стылі віленскага



Царква **Барунскага Петрапаўлаўскага манастыра**.

барока, дабудавана ў 1760—70. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай накрыта 2-схільным дахам. Дэкаратыўнае аздабленне сканцэнтравана на пластычна вырашаным гал. фасадзе. Вежы пастаўлены пад вуглом да бакавых нефаў: паўднёвая 3-ярусная квадратная ў плане завершана гранёным купалам, ад другой застаўся ніжні ярус, накрыты 4-схільным купалам. Да вежаў з абодвух бакоў прылягаюць брамы з пластычнымі абрысамі. Паўн. брама злучае царкву з 2-яруснай вежай-званіцай. Манастырскі корпус пабудаваны ў 1778—93. Будынак Т-падобны ў плане, 2-паверховы, пры аднаўленні ў канцы 19 ст. яму нададзены рысы класіцызму. Пры манастыры ў 1793 адкрыта публічная 6-класная школа базыльян (існавала да пач. 19 ст.). На плошчы перад царквой размешчана капліца — цэнтрычны 2-ярусны аб'ём (чацвярык на васьмерыку; пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст.). З 1833 царква праваслаўная, у 1919 перададзена католікам.

***Тамара Габрусь.***

**Барч** (Bartsch) Ігнат (27.7.1697, Клодзка, Польшча—5.7.1753), сталяр і разьбяр па дрэве. З 1720 езуіт. У 1725—28 працаваў у езуіцкім калегіуме ў Берасці. З 1731 жыў у Вільні і працаваў пры касцёле св. Яна. Рабіў мэблю для касцёла, удзельнічаў у аздабленні інтэр'ера, тэатральнай залы, фізічнай лабараторыі і б-кі Віленскай акадэміі.

**барыл**, б а р ы л а (ад лац. barillus бочка), мера вадкасцей у ВКЛ у 16—18 ст., якая выкарыстоўвалася гал. ч. для вымярэння вінаў. Складалася з 20 *гарцаў* (ад 56 да 112 л). У агульным значэнні Б. — бочка для напіткаў.

***Валерай Пазднякоў.***

**Барысаў** (цяпер горад, цэнтр Барысаўскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Аршанскім пав. Віцебскага ваяв., на р. Бярэзіна. Упершыню ўпамінаецца пад 1127 як горад Полацкай зямлі. З 1-й пал. 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 2-й пал. 14 ст. перанесены на 4 км ніжэй па цячэнні Бярэзіны, дзе пабудаваны *Барысаўскі замак*. Велікакняжацкі горад, з 1413 цэнтр *Барысаўскай воласці*. У 1432 і 1433 у Б. са сваім войскам спыняўся *Свідрыгайла* ў час *феадальнай вайны 1432—39*. У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* у 1500 у Б. знаходзілася стаўка вял. князя ВКЛ Аляксандра. У 1508 Б. безвынікова трымалі ў аблозе атрады кн. М.Л.Глінскага (гл. *Глінскіх мяцеж 1508*). У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* у 1514 Б. стаў месцам збору войск ВКЛ, у замку знаходзілася стаўка вял. князя Жыгімонта Старога. 27.8.1514 К.І.Астрожскі разбіў каля Б. перадавыя атрады маскоўскага войска. У 1519, калі групоўка войск 9 маскоўскіх ваявод, рухаючыся ў напрамку Орша—Менск—Вільня, «...воеваша и плениша Литовскую землю», Б. згадваецца ў ліку «повоеванных городов». У *вайну Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* у 1535 10 рус. ваявод, якія ішлі ад Смаленска, «начаша воевати королёву державу», у т.л. Б. У 1586 у Б. заключана пагадненне аб абмене палоннымі, якія былі ўзяты ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У канцы 16 ст. ў горадзе 2—3 тыс. жыхароў. У сярэдзіне 17 ст. заснаваны правасл. манастыр (у сярэдзіне 18 ст. стаў уніяцкім), дзейнічалі Троіцкая і Праабражэнская цэрквы. Першы касцёл у Б. быў пабудаваны на фундуш барысаўскага старасты А.Казаноўскага ад 13.9.1642. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* каля Б. атрад шляхціца К.Паклонскага 21.6.1655 пацярпеў паражэнне ад войск ваяводы Ю.М.Баратынскага і мусіў адступіць да Менска. Аднак узяць Барысаўскі замак рас. атраду не ўдалося, і на дапамогу яму былі кінуты войскі ваяводы Б.М.Хітраво (4159 чал. пяхоты і 1207 коннікаў). Аб'яднаныя атрады 19 чэрв. захапілі і спалілі замак, які быў адноўлены паводле загаду цара. У 1658 Б. двойчы пераходзіў з рук у рукі. З 1661 Барысаўскі замак пастаянна асаджалі атрады ВКЛ на чале з гетманам С.Чарнецкім. 9.7.1662 рас. гарнізон пакінуў замак. У *Паўночную вайну 1700—21* у 1708 Б. згарэў. З 1718 належаў Агінскім, у сярэдзіне 18 ст. пабудавана Васкрасенская уніяцкая царква, існаваў касцёл Ушэсця Дзевы Марыі. У 1732 у Б. 9 вуліц, у 1764 — 230 дамоў. 14.7.1792 горад атрымаў магдэбургскае права і герб: у сярэбраным полі брама, паміж дзвюма вежамі над брамай постаць св. Пятра з двума ключамі ў руцэ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.



Герб **Барысава** з прывілея 1792.

*Літ.*: Дзевяць стагоддзяў Барысава. Мн., 2002; Друцк і Барысаў: Да юбілеяў стараж. гарадоў. Мн., 2002.

***Валерый Грынявецкі.***

**Барысаўская воласць**, Б а р ы с а ў с к а е  с т а р а с т в а, дзяржаўнае уладанне ў ВКЛ у 14—18 ст. Займала ўсх. частку сучасных Барысаўскага і паўднёвую Крупскага р-наў. Першапачаткова ўваходзіла, відаць, у *Друцкае княства*, у 15 — 1-й пал. 16 ст. — у *Віленскае ваяводства*. У 1396 падданыя Б.в. атрымалі прывілей вял. князя, у якім замацоўвалася іх права самім збіраць падаткі праз сістэму мясц. адміністрацыі — выбарных старцаў. У пач. 16 ст. частка тэр. воласці (сёлы Глівін, Упірэвічы, Шыпяны і інш.) шляхам велікакняжацкіх падараванняў стала прыватнымі маёнткамі. Рэштай воласці кіравалі велікакняжацкія намеснікі (старасты) Я.Радзівіл (1510—22), А.Гаштольд (1522—39), Я.Ю.Глябовіч (1542—51), потым М.Радзівіл Чорны. Трое апошніх адначасова займалі пасаду віленскага ваяводы. Даход з Б.в. ішоў на службовыя расходы віленскага ваяводы. Паводле адм. рэформы ВКЛ 1565—66, большая частка Б.в. ўвайшла ў *Аршанскі павет*, астатняя, на правым беразе р. Бярэзіна (з сёламі Вялікі Стахаў і Дымкі) — у Менскі пав. Намеснікамі (старастамі) былі віленскія ваяводы М.Радзівіл Руды (1567—79) і К.Радзівіл (1579—1603). Прыкладна з таго часу Б.в. наз. стараствам. Сын К.Радзівіла Януш валодаў ім у 1603—20, ужо не займаючы пасаду віленскага ваяводы. З 1621 старастам быў А.Хадкевіч, з 1629 — А.С.Радзівіл. Каля 1635 староства было аддадзена ў заклад паляку А.Казаноўскаму, пасля смерці якога ў 1649 закладное права перайшло на яго ўдаву. У 17 ст. з Б.в. ў самаст. уладанні вылучыліся Ратуцічы (у 1643 запісаны Казаноўскім на заснаваны ім касцёл у Барысаве), Вяляцічы, Гібайлавічы, Дзмітравічы, Клеўка, Пышачы, Сморкі, Эсьмоны. Пасля гэтага ў склад староства ўваходзіла каля 50 населеных пунктаў, найбуйнейшымі



Аўтар В.Л.Насевіч

з якіх былі Барысаў, мястэчкі Барань, Лошніца, Нача, Нёманіца, Ухвала, сёлы Аздзяцічы, Арэшкавічы, Бытча, Жыцькава («прадмесце Жыхава»), Кастрыца, Вялікі і Малы Стахаў, Студзёнка, Шавярнічы і інш. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Б.в. была занята рас. войскамі і заставалася пад іх кантролем да 1662. Пасля вайны стараствам валодаў на закладным праве К.Я.Сапега, які ў 1685 саступіў яго Б.Д.Слушку, удава апошняга ў 1718 — М.Агінскаму, які трымаў яго паперамена з сынам Ігнацыем. І.Агінскі канчаткова заняў пасаду старасты ў 1744 і трымаў яе да смерці ў 1775, пасля чаго стараствам валодала яго ўдава Алена. У 1793 далучана да Рас. імперыі, са складу старасства вылучаны ў якасці павятовага цэнтра Барысаў, а само яно ў 1798 у колькасці 8 тыс. душ мужч. полу падаравана ў прыватную ўласнасць М.Радзівілу.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Барысаўскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. Узнік пасля пераносу *Барысава* з першапач. месца на 4 км ніжэй па цячэнні р. Бярэзіна. Размяшчаўся на левым яе беразе, каля сутокаў з р. Пралля (Прылля, Алешка), займаў пляцоўку пл. каля 2 га, абкружаную высокім земляным валам з драўлянымі сценамі і вежамі, а таксама ровам, які жывіўся водамі Бярэзіны і Праллі. Паводле звестак А.Гваньіні, у 16 ст. замак быў умацаваны вежамі і парканам з гародняў, запоўненых зямлёю і камянямі. На час яго аблогі існавала сістэма скрытага водазабеспячэння. Замак меў стратэгічнае значэнне, бо кантраляваў суднаходны шлях з басейна Балтыйскага ў Чорнае мора і сухапутны шлях у цэнтр Беларусі. Некалькі апісанняў замка захавалася з 16 ст. Маскоўскі дзяк Трыфан Карабейнікаў у студз. 1593 пісаў, што ён «древян, невелик, поменшы Дорогобужа, под ним р. Березина, с реку с Одрев, да около пруд, а от городка едучи к Менску, мост древяной, через реку, через пруд, в длину его сажен в 200». У 1-й пал. 17 ст. замак перабудаваны ў 5-бастыённую фартэцыю, умацаваную вял. ровам з вадою. З У да яго прымыкала «падзамча», якое таксама мела лінію абароны. Паблізу ўмацаванняў знаходзіўся драўляны мост на палях цераз Бярэзіну. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1655—62 замак заняты маскоўскімі войскамі. У канцы 17 ст. Б.з. і падзамак прыведзены ў парадак, і яго бастыённыя ўмацаванні захоўваліся ў добрым стане да канца 18 ст.

***Міхась Ткачоў.***

**Барышаў** Гурый Іларыёнавіч (30.4.1928, Ташкент—14.6.2001), беларускі тэатразнавец і мастацтвазнавец, педагог, драматург. Д-р мастацтвазнаўства, праф. (1990). Акад. Бел. акадэміі адукацыі (1999). Скончыў Ташкенцкі тэатр. ін-т (1950). Працаваў у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (1955—67, 1973—78), Бел. тэатр.-маст. ін-це (1961—67, заг. кафедры), Гал. рэдакцыі БелСЭ (1967—73). З 1979 у Бел. ун-це культуры (у 1983—94 заг. кафедры). Даследаваў гісторыю і тэорыю бел. прафесійнага і нар. тэатра, мастацка-матэрыяльную культуру. Паклаў пачатак вывучэнню бел. сцэнаграфіі. Распрацаваў канцэпцыю поліэтнічнай і полілінгвістычнай шматслойнай тэатр. культуры Беларусі 18 ст. Аўтар раздзелаў у калект. працах «Гісторыя беларускага тэатра» (т.1, 1983) і «Музычны тэатр Беларусі: Дакастрычніцкі перыяд» (1990). Шмат увагі аддаваў папулярызацыі гіст. ведаў у друку, аўтар і вядучы фільма «Музы палацаў і замкаў старадаўніх» (1988), сааўтар тэлепраграмы «Настальгічны дывертысмент» (1993). Аўтар п'есы «Цар Ірад» (паст. Дзярж. т-рам лялек Беларусі, 1993). Прэмія імя К.Крапівы 1994.

*Тв.*: Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва Савецкай Беларусі. Мн., 1958; Театральная культура Белоруссии XVIII века. Мн., 1992; Батлейка. Мн., 2000.

*Літ.*: Г.І.Барышаў: Бібліягр. паказ. Мн., 1998; Ён падараваў нам XVIII стагоддзе: Слова пра Гурыя Барышава // Роднае слова. 2003. № 4.

***Алена Саламаха.***

**барышнік**, гандлёвы пасрэднік у ВКЛ. Садзейнічаў куплі і продажу тавараў на таргах і кірмашах за пэўную ўзнагароду (барыш). Пры неабходнасці сведчыў на судзе пра гандлёвыя здзелкі.

**Барэйка** Юзаф (29.4.1729, Беларусь—5.4.1765), педагог, аратар. У 1744 уступіў у ордэн езуітаў. Выкладаў у езуіцкіх навуч. установах, у т.л. ў Віленскай акадэміі (1763—64). Атрымаў вядомасць як выкладчык рыторыкі і майстар красамоўства. У кн. «Навука пра красамоўства, з кніг М.Т.Цыцэрона на польскую мову перакладзеная» («Nauka o krasomówstwie z ksiąg M.T.Cycerona na polski język wytłumaczona» (Вільня, 1763) разам з вольным выкладаннем зместу твораў Цыцэрона змясціў шматлікія заўвагі пра грамадскі абавязак

добрага выхавання маладога пакалення і патрэбу належнай інтэлектуальнай і маральнай падрыхтоўкі педагогаў, пісаў пра мэты навучання і абавязкі настаўнікаў, пра неабходнасць удасканаліць унутрыпаліт. жыццё краіны. Праца Б. — адна з самых значных па педагогіцы ў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середине XVIII в. Мн., 1971. С. 128—129.

*Валерый Пазднякоў.*

**Барэцкі** Іоў, гл. *Іоў*.

**Басея,** гістарычная валасць у верхнім цячэнні р. Бася, на стыку сучасных Горацкага і Шклоўскага р-наў. Упершыню ўпамінаецца каля 1136 у грамаце смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча, які атрымліваў з Б. даніну ў памеры 15 грыўняў і вызначыў з яе дзесяціну на карысць смаленскага епіскапа. У ВКЛ належала князям Друцкім. У 1-й пал. 16 ст. адна частка Б. належала кн. Васілю Юр'евічу Друцкаму-Талачынскаму, другая — кн. Сямёну Ямантавічу-Падбярэскаму (яго маці, паводле ўскосных меркаванняў, была з роду Друцкіх-Талачынскіх). У складзе ўладанняў апошняга ў 1522 упамінаюцца вёскі Казловічы і Хамінічы, а ў 1542 таксама Пагост, Навасёлкі, Кішчыцы, Беразоў і Гарадзішча. Гэтыя ўладанні ён завяшчаў А.Гаштольду, уладальніку Шклова, але завяшчанне, відавочна, не было выканана, бо Ямантавіч-Падбярэскі перажыў Гаштольда. Панскай гаспадаркі (фальваркаў) на той час у Б. не было, яе насельніцтва па-ранейшаму складалася з сялян-даннікаў. Пасля смерці Ямантавіча-Падбярэскага (1540) яго сястра Ульяна адсудзіла яго спадчыну на карысць сваіх сыноў Рыгора і Івана Яцкавічаў. Неўзабаве Рыгор Яцкавіч Падбярэскі прадаў сваю і братаву частку Б. вял. князю ВКЛ Жыгімонту Старому, у 1547 Іван Падбярэскі беспаспяхова спрабаваў адсудзіць сваю долю назад. Пазней гэта частка Б. была далучана да Шклоўскага графства, інвентар якога за 1643 згадвае Басейскую воласць (якая ў 1650 ужо падзелена на Кішчыцкае, Серцыслаўскае і Сасноўскае войтаўствы), а таксама Казловіцкае войтаўства. Пасля смерці кн. Васіля Друцкага-Талачынскага (1546) другая палавіна Б. стала прадметам спрэчкі паміж яго сёстрамі і ўдавой Марыяй Багданаўнай з роду князёў Заслаўскіх, якая ў 1550 узяла шлюб з навагародскім ваяводам І.Гарнастаем. Сёстры Друцкага-Талачынскага Людміла (жонка Юрыя Храптовіча) і Настасся (жонка Рамана Гарасімовіча) мелі права выкупіць спадчыну брата ў Гарнастая, аднак з-за нястачы сродкаў зрабілі гэта толькі часткова. Пасля шэрагу суд. працэсаў частка Б. і інш. маёнткаў Друцкага-Талачынскага засталася ў пасынка Марыі Багданаўны Гаўрылы Гарнастая і яго братоў, а частка — у нашчадкаў Настассі Талачынскай (яе дачкі ад першага шлюбу княжны Багданы Канстанцінаўны Друцкай-Каноплі і яе мужа І.І.Сапегі). Г.І.Гарнастай са сваёй часткі «даннікаў у Басеі за Дняпром» у 1567 ставіў у войска 1 конніка. Пасля яго смерці ў 1588 гэты маёнтак перайшоў да яго сына Геранімa. Доля Багданы Сапегі пасля яе смерці (1584) дасталася пры падзеле старэйшаму яе сыну — Л.І.Сапегу, які ў 1590 купіў у Г.Г.Гарнастая і яго долю. Да велізарных маёнткаў Л.І.Сапегі ў 1624 належала і Б. з Якаўлевічамі, з якой ішоў чынш у памеры 1345 коп грошаў, а ў завяшчанні (1633) гэты ж маёнтак прыгаданы як Сяльцо з Якаўлевічамі. У 1656 гэта частка былой Б. ад сына Л.І.Сапегі перайшла да Нарушэвічаў.

*Вячаслаў Насевіч.*

**басурманін**, чалавек мусульманскай веры. Прававое становішча Б. — жыхароў ВКЛ (гал.ч. гэта былі *татары*) рэгулявалася Статутамі ВКЛ. Ім забаранялася займаць пасады ва ўстановах вял. князя, у маёнтках магнатаў і шляхты, мець прыгонных сялян хрысціянскага веравызнання, абмяжоўваўся іх удзел у судаводстве па справах хрысціян. Калі Б. меў закупаў ці ваеннапалонных з ліку хрысціян, то пад пагрозай смяротнай кары яму забаранялася пераводзіць іх дзяцей у сваю веру. Б. не маглі таксама браць для сваіх дзяцей мамак-хрысціянак.

**Бася**, рака ў Віцебскай і Магілёўскай абл. Беларусі, правы прыток Проні (правы прыток Сажа, бас. Дняпра). У 1660 на Б. адбылася бітва паміж войскамі Рэчы Паспалітай і Расіі, гл. *Бітва на Басі 1660*.

**Батвіннік** Марат Барысавіч (н. 22.12.1928, Мінск), беларускі гісторык. Канд. гіст. н. (1970). Скончыў БДУ (1951). Працаваў ва ўстановах нар. асветы, у 1977—97 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац. АН Беларусі. Даследуе гісторыю ВКЛ эпохі Адраджэння, гістарыяграфію эпохі феадалізму, гісторыю культуры, асветы і л-ры Беларусі, ролю спадчыны Ф.Скарыны ў дзейнасці бел. друкароў і выдаўцоў 16—17 ст., гістарыяграфію новага часу, прысвечаную дзейнасці Скарыны, творчасць бел. гуманістаў і асветнікаў Л.Зізанія, М.Смятрыцкага, С.Полацкага, уклад бел. гісторыкаў М.М.Нікольскага, У.М.Перцава ў даследаванне гісторыі ВКЛ. Адзін з аўтараў і адказны рэдактар кн. «Францыск Скарына — беларускі гуманіст, асветнік, першадрукар» («Франциск Скорина — белорусский гуманист, просветитель, первопечатник», Мн., 1989).

*Тв.*: У истоков учебной книги. Мн., 1964; Н.М.Никольский. Мн., 1967; Лаврентий Зизаний. Мн., 1973; В.Н.Перцев. Мн., 1978; Изучение жизни и деятельности Франциска Скорины в БССР // Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979; Откуда есть пошёл букварь. Мн., 1983; Вывучэнне жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны ў ЗША // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1990. № 4—5; Азбука на ўсе часы. Мн., 2003.

**Баторый** Стафан (27.9.1533—12.12.1586), кароль польскі і вялікі князь літоўскі [1576—86], гл. *Стафан* Баторый.

**баяры**, ваеннаслужылыя людзі ў ВКЛ. Паходзілі з Б. Полацкага, Тураўскага, Смаленскага і інш. княстваў, ад дружыннікаў літоўскіх князёў. У 13—16 ст. большасць Б. атрымала саслоўныя прывілеі феадалаў. Частка з іх была прамежкавай групай паміж феадаламі і сялянамі. У юрыд. дакументах пачынаючы з 15 ст. сярод Б. вылучаюцца *паны* і знатныя Б., якія разам з князямі складалі вярхі феад. саслоўя (*Гарадзельскі прывілей 1413*). Гэтыя катэгорыі ўпамінаюцца ў велікакняжацкіх прывілеях да *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529*. У 14—15 ст. і 1-й чвэрці 16 ст. ўсюды асн. маса феадалаў (сярэднія і дробныя землеўладальнікі) мелі адну назву — Б. Пачынаючы з Гарадзельскага прывілея 1413 для абазначэння саслоўя феадалаў побач з гэтым тэрмінам у афіцыйных актах усё часцей трапляецца тэрмін «баяры-шляхта» або «*шляхта*». Але да 2-й чвэрці 16 ст. асн. тэрмінам для абазначэння феадалаў заставаўся тэрмін «Б.» Большасць Б. былі васаламі вял. князя, частка — васаламі буйных феадалаў-князёў, паноў, буйных Б. Значная колькасць Б. мела толькі па некалькі або зусім не мела залежных сялян. Іх называлі «конныя

Б., якія людзей не маюць», *пешая шляхта* (паводле тэрміналогіі попісаў войска ВКЛ 1528 і 1567). У 1-й пал. 16 ст. побач з тэрмінамі «шляхта», «баяры-шляхта» ўжываліся тэрміны «паны-баяры», «паныбаяры панцырныя», «*зямяне*», «шляхта панцырная» (у 1570-я г. і ў 1605 у Давыд-Гарадоцкім маёнтку Радзівілаў), «паныбаяры панцырныя і путныя» (у 1597 у Капыскім маёнтку Радзівілаў, у канцы 16 ст. ў Капыльскім і Нясвіжскім маёнтках Радзівілаў). Да канца 16 ст. шляхтай і зямянамі называлі феадалаў Слуцкага княства. Яны мелі па 5—10 валок зямлі, з якіх неслі ваенную службу. Існавала значная па колькасці група ваеннаслужылых людзей, куды ўваходзілі не толькі нашчадкі дробных бел. і літоўскіх Б. і дружыннікаў, але і прадстаўнікі вярхоў сялянства. Гэтыя ваеннаслужылыя людзі ўдзельнічалі ў войнах у складзе атрадаў паноў, а часам і самастойна, разам з шляхціцамі. У попісе войска ВКЛ 1528 пазначана 10 Б. путных і 1 конюх з Жалудка, 2 «слуги путные, што людей не маюць» з Рагачова, 34 сакольнікі Навагародскага замка, 11 навагародскіх садоўнікаў, 4 кухары, 1 псяр і 1 «лазебнік». У 1567 у войску запісаны 7 самілішскіх путных слуг (Троцкі пав., пазней іх нашчадкі лічыліся шляхтай), усе ваеннаслужылыя людзі разам з баярамі-шляхтай выступалі ў паход «з ыменей своих». Яны падзяляліся на *панцырных баяр*, *путных баяр* або проста Б. (часам іх звалі *служкамі*), путных слуг, дамовых слуг. Усе яны атрымлівалі надзелы зямлі пры ўмове нясення службы, гал.ч. вайсковай. Паміж дробнымі феадаламі і вышэйшай групай ваеннаслужылых сялян у 16 ст. не заўсёды можна правесці мяжу. Тэрміналагічная неакрэсленасць адлюстроўвала пераходную ступень, што займалі ваеннаслужылыя людзі ў эканам. і сац. адносінах. У *полацкай рэвізіі 1552* адзначана, што ва ўладаннях полацкай шляхты жылі Б., слугі, путныя слугі, дамовыя слугі, якія неслі вайсковую службу ў атрадах шляхціцаў, сваіх паноў. Частка з іх мела сваіх *айчызных людзей* і *агароднікаў*. Так, на айчызнай зямлі путнага чалавека Міхаіла Балотава было 15 сялянскіх дымоў. Ваеннаслужылыя сяляне намагаліся ўліцца ў клас феадалаў, і нярэдка гэта ім удавалася. Былі выпадкі, калі баяры-феадалы, якія не маглі выконваць звязаныя з ваеннай службай павіннасці, траплялі ў катэгорыю залежных сялян. У 2-й пал. 17—18 ст. Б. называлі адну з катэгорый сялян ВКЛ. Яны за свой надзел выконвалі феад. павіннасці, плацілі чынш; не былі асабіста свабоднымі, не служылі ў войску і па сутнасці былі прыгоннымі. Да канца 18 ст. феадалы перавялі такіх Б. на становішча чыншавых і нават цяглых сялян. У рэдкіх выпадках шляхціцамі станавіліся прадстаўнікі незапрыгоненых сялян — *людзей пахожых*. Працэс прававога фарміравання шляхецкага саслоўя зацягнуўся да 2-й пал. 16 ст. (попісы войска ВКЛ 1528 і 1567, Статуты ВКЛ 1529, 1566 і 1588, закон аб доказе шляхецтва 1522 і інш. прывілеі). Значная частка Б. да канца 16 ст. афармілася як шляхецкае саслоўе. Ужо тады было нямала бедных шляхціцаў, якія не мелі прыгонных і залежных сялян. Паводле эканам. становішча яны мала адрозніваліся ад сялянслуг. Значная частка ваеннаслужылых людзей ВКЛ трапіла ў шляхецкае саслоўе, але захавала назву Б. Часткова гэта былі нашчадкі дробных Б. і путных слуг (панцырныя і путныя Б. і інш.). Яны паранейшаму выконвалі ваенныя і інш. службовыя павіннасці і займалі ў пэўнай ступені прывілеяванае становішча ў параўнанні з асн. масай сельскага насельніцтва. На Беларусі ад назвы сац. групы Б. замацаваліся тапонімы: Баяры, Малыя Баяры, Баяры Дзікушкаўскія і тыпу Баяркі, Баярск.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Похилевич Д.Л. Крестьяне-слуги в Великом княжестве Литовском в XVII—XVIII вв. // Средние века: Сб. М., 1962. Вып. 21; Грицкевич А.П. Хозяйственное и правовое положение военно-служилого населения в Слуцком княжестве в XVII—XVIII вв. // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы. 1962 г. Мн., 1964; Его ж. Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы (XV—XVI) // Первый Литовский Статут 1529 г. Вильнюс, 1982.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Бекер** (Becker) Ян Самуэль (1730-я г., Саксонія—1810), архітэктар. У ВКЛ прыехаў у 1750—60-я г. Жыў у Ружанах, працаваў у канцлера ВКЛ А.Сапегі. Пасля яго смерці ў 1793 выехаў з Ружан, але працягваў атрымліваць адтуль пенсію (апошні раз у Менску ў 1810). Вядомы яго праекты пабудоў у Вільні, Высокім, Дзярэчыне, Зэльве, Ружанах і ваколіцы. Захаваныя пабудовы знаходзяцца ў Ружанах: *Ружанскі Петрапаўлаўскі манастыр*, 1762—79; карчма «Пад зоркай», 1778; перабудова інтэр'ера *Ружанскага Троіцкага касцёла*, 1779; прыбудоўка да яго капліцы св. Барбары, 1786; пераробка і разбудова *Ружанскага палацавага комплексу*, 1772—77 (захаваўся ў руінах); капліца св. Казіміра на могілках, 1790—92. Захаваліся арыгінальныя чарцяжы Б. (фонд Сапегаў б-кі Варшаўскага ун-та), выкананыя тушшу на паперы, большасць іх падмалявана акварэллю. Чарцяжы былі падораны архітэктарам свайму мецэнату ў 1788,



Я.С.**Бекер**. План парку ў Ружанах. Б-ка Варшаўскага ун-та.

частка з іх загінула. Сярод 36 захаваных 8 падпісаны па-французску: «J.S.Becker Lieut. Architecte». Маюцца праекты палацавых, тэатр., сакральных, жылых збудаванняў з цэглы і дрэва, тэхнічных (калодзеж, печы для выпальвання цэглы і кухонная), парку. Стылістыка твораў Б. вызначаецца пераходам ад барочнай наменклатуры да класіцызму. У іх адчуваецца ўплыў дрэздэнскай школы, а таксама творчасці варшаўскіх і віленскіх архітэктараў.

*Літ.*: Калнін В. Архітэктура Яна Самуэля Бэкера // Спадчына. 1998. № 3—4. Яго ж. Nurt barokowy w twórczości J.S.Beckera

architekta domu Sapiehów // Kultura artystyczna Wielkiego Księstwa Litewskiego w epoce baroku. Warszawa, 1995; Я г о ж. Architektura Jana Samuela Beckera // Przegląd Wschodni. 2000. Z. 4 (24).

***Валянцін Калнін.***

**Бекеш** (Bekiesz, Békés) Каспар (1520, Трансільванія—7.11.1579), ваенны і паліт. дзеяч. Паходзіў з венгерскага шляхецкага роду. Бацька, Уладзіслаў, віцэ-бан лугоскі і нямецкі, шляхціц з мясцовасці Бекеш (адсюль прозвішча). З 1557 служыў у Трансільваніі пры двары Яна Жыгімонта. У 1565 узначальваў пасольства ў Канстанцінопаль, каб атрымаць ваен.-паліт. дапамогу ад турэцкага султана супраць імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. Падтрымліваў антыгабсбургскі нац.-вызв. рух у Венгрыі. У канцы 1560-х г. уступіў у новую паліт. кааліцыю і падтрымліваў Габсбургаў у імкненні падначаліць сабе Трансільванію (дагавор падпісаны 16.8.1570 у Спіжы). Пасля абрання ў 1571 Стафана Баторыя князем Трансільваніі ўдзельнічаў у няўдалых паліт. інтрыгах і спрабаваў ваен. шляхам рэалізаваць свае планы ў барацьбе за ўладу. У 1575 яго войскі ўшчэнт разбіты, а досыць значныя зямельныя ўладанні канфіскаваны. Пасля абрання Стафана Баторыя каралём польскім і вял. князем літоўскім Б. памірыўся з ім і ў 1577 стала асеў у Рэчы Паспалітай. Ваен. талентамі і асабістай мужнасцю вызначыўся ў абароне Эльбланга ў 1577 і ў *Інфлянцкай вайне 1558—82*, у т.л. ў полацкай кампаніі 1579. У час штурму Полацкага замка ўзначальваў венгерскія харугвы і артылерыю. Карыстаўся павагай Стафана Баторыя. Па хадайніцтве мясц. шляхты ў 1579 атрымаў шляхецтва ВКЛ, дадатковыя маёнткі, у т.л. ў Гарадзенскім пав. Вакол яго групаваліся прыхільнікі антытрынітарызму. Калі ён памёр у Гародні, каталіцкая і праваслаўная цэрквы забаранілі хаваць яго на сваіх могілках; пахаваны ў Вільні на Лысай гары, якую пазней назвалі гарой Бекеша. Б. лічылі атэістам, яму нават прыпісваўся ўласны надмагільны надпіс, дзе ён рэзка адмаўляўся ад асн. рэлігійных догматаў: «Усё маю з сябе, не веру ў Бога, Не прагну яго неба, не баюся пекла,... Жыў заўсёды сам па сабе і быў заўсёды старанным. Не турбуюся пра божы суд, Не трывожуся пра цела і тым больш пра душу, Якая памерла разам са мной....». Аднак надпіс датуецца 1649, і хутчэй за ўсё змешчаны на магіле пратэстантамі ў час рэліг. барацьбы з каталікамі ў 17 ст. Некат. даследчыкі прыпісваюць аўтарства А.*Волану*. Паводле новых звестак, Б. вызнаваў арыянства, а перад смерцю нават перайшоў у каталіцызм (ліст папскага нунцыя Дж.А.Калігары ад 25.11.1579).

*Літ.*: M e r c z y n g H. Polscy deiści i wolnomyśliciele Jagiellonów // Przegląd historyczny. 1911. № 3; S z a d e c z r k y Z. Kornyáti Békés Gaspar 1520—1579. Budapest, 1887; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 92—99; B o j t á r E. Kasparas Bekešas ir jo antkapis: máslės ir nuomonių skirtumai // Lituanistica. 1990. № 1.

**Бекцінееў** Шаміль Іршатавіч (н. 31.8.1947, г. Патсдам, Германія), бел. гісторык, археолаг і нумізмат. Канд. гіст. н. (1989). Скончыў БДУ (1977). З 1970 працуе ў Ін-це гісторыі Нац. АН Беларусі. Даследуе гісторыю грашовага абарачэння (у т. л. гроша пражскага ў ВКЛ) і метралогію сярэдневяковай Беларусі. Выказаў гіпотэзу пра існаванне на тэр. полацкавіцебскага Падзвіння ў 2-й пал. 13—канцы 14 ст. рэгіянальнай грашовавагавай сістэмы як прататыпа агульнадзярж. грашовай сістэмы ВКЛ канца 14—сярэдзіны 15 ст. Склаў каталог гіракразнавагаў (больш за 60 экз.), знойдзеных на Беларусі, вызначыў іх ролю ў вывучэнні грашовага абарачэння. Вывучае вайсковыя фарміраванні з бел. найменнямі, якія дзейнічалі ў рас. арміі ў 1772—1918. Даследаваў гарадзішча Горы-Горацкага р-на.

*Тв.*: Денежное обращение Великого княжества Литовского в XIII—XV вв. Мн., 1994; Периодизация денежного обращения на территории Беларуси с IX в. до Люблинской унии 1569 г. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1994. № 4; Обращение рубля на территории Беларуси до Люблинской унии 1569 г. // Беларусь: Гістарычны лёс народа і культуры. Мн., 1995; Татарские монеты в денежном обращении Великого княжества Литовского (XIV в.) // Другая міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Ісламская культура татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы і яе ўзаемадзеянне з беларускай і іншымі культурамі». Мінск, 19—20 траўня 1995 г. Мн., 1996. Ч. 2; Слуцкий клад 1902 года: (К истории денежного обращения Великого княжества Литовского на рубеже XIV и XV вв) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1996. № 10; «Корабельники» в Великом княжестве Литовском // Там жа. 1997. № 11; Денежные системы по материалам могилевских магистратских книг 1578—1580 гг. // Магілёўская даўніна. Магілёў, 1999. Вып. 7; Формирования российской армии с белорусскими наименованиями. Мн., 1999.

**Белабоцкі** (Б е л а б л о ц к і) Ян (Андрэй Хрыстафоравіч), усходнеславянскі філосаф і паэт 2-й пал. 17—пач. 18 ст. Скончыў Слуцкую кальвіністскую гімназію, вучыўся ў Францыі, Італіі, Іспаніі, дзе авалодаў многімі мовамі. Быў кальвіністскім прапаведнікам у Слуцку, настаўнікам у Магілёве. З прычыны праследаванняў езуітамі вымушаны быў пераехаць у Смаленск, а ў 1681 — у Маскву, дзе прыняў праваслаўе і імя Андрэй (1682). У Маскве служыў у Пасольскім прыказе, займаўся перакладчыцкай і літаратурна-педагагічнай дзейнасцю. У 1686—91 як перакладчык з лац. мовы з пасольствам Ф.Галавіна наведаў Кітай. Аўтар філас. твораў «Кароткая гутарка літасці з ісцінаю пра Божую міласэрнасць і муку» (1685, выд. СПб., 1712), «Вялікая навука Раймунда Люлія» і «Кніга філасофская» (1698—99) і інш. Да пераходу ў праваслаўе не прызнаваў афіц. царквы, крытыкаваў Біблію. Веру лічыў асабістай справай кожнага чалавека. Філасофію ставіў вышэй за багаслоўе. У яго філас. поглядах перапляталіся ідэі рацыяналізму, дэізму і пантэізму. Адстойваў адзінства душы і цела. Гал. паэтычны твор Б. — паэма «Пентатэугум, або Пяць кніг кароткіх пра чатыры рэчы апошнія, пра марнасць і жыццё чалавека» — напісаны на стараслав. мове, у якой адчуваецца ўплыў бел. мовы. Крыніцамі пры напісанні «Пентатэугума» паслужылі творы ням. паэтаўлаціністаў М.Радэра, І.Ніса і Я.Бальдэ, а таксама іх польскія апрацоўкі. У паэме асуджаецца марнасць зямнога быцця, несправядлівы падзел даброт пры тагачасным ладзе, паразітызм пануючага класа, прадстаўнікі якога заканамерна павінны трапляць у пекла. «Пентатэугум» напісаны эмацыянальным, тыпова барочным стылем. Пяру Б. належаць пераклад першых дзвюх кніг трактата Фамы Кемпійскага «Аб наследаванні Хрысту». У розных крыніцах Б. часта блытаюць з польскім паэтам Янам Белабоцкім (каля 1600 — пасля 1661), які не меў дачынення ні да Беларусі, ні да Расіі.

*Тв.*: Пентатеугум // Тр. Отдела древнерусской литературы. М.; Л., 1965. Т. 21; Тое ж // Русская силлабическая поэзия XVII—XVIII вв. Л., 1970.



*Літ.*: Горфункель А. Андрей Белобоцкий — поэт и философ конца XVII— начала XVIII в. // Тр. Отдела древнерусской литературы. 1962. Т. 18; Яго ж. Неизвестное издание петровской эпохи // Книга. М., 1962. Т. 6; Подокшин С. Вольнодумец из Белоруссии Ян Белобоцкий // Молодые ученые и современная философская наука. Мн., 1964; Яго ж. Лаврентий Зизаний, Ян Белобоцкий // Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973; Прашковіч М. Ян (Андрэй) Белабоцкі // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968; Мальдзіс А. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980.

***Адам Мальдзіс.***

**Белазоры** (Монтвіды-Белазоры), шляхецкі род герба «Вянява». Паводле некат. гісторыкаў, паходзілі ад роду *Саковічаў*. Асн. маёнткі мелі ў Жамойці і Полацкім ваяв. Найб. вядомыя:

Станіслаў (?—да 1623), сын Яна. Паборца вількамірскі ў 1578, упіцкі стольнік у 1584, суддзя земскі ў 1589, падкаморы з 1593; маршалак сойма 1605, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1605. У 1601—02 ваяваў са шведамі ў Інфлянтах.

Ян Кароль (1596—10.2.1631), сын Станіслава. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, Германіі і Італіі. Кусташ віленскі, каралеўскі сакратар, да 1630 рэгент меншай канцылярыі ВКЛ, рэферэндар духоўны ВКЛ з 1630.

Крыштоф (1588 або 1589—8.5.1644), сын Станіслава. Маршалак упіцкі, староста абельскі; пасол на соймы 1629, 1632, 1633, 1638, 1643, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1628 і 1640.

Ежы (?—17.5.1665), сын Крыштофа. Скончыў Віленскую акадэмію, стаў ксяндзом. Каралеўскі сакратар, скарбовы пісар ВКЛ у 1649—58, канонік віленскі, пробашч капліцы св. Казіміра, рэгент меншай канцылярыі ВКЛ у 1650—55, кусташ віленскі з 1652, біскуп смаленскі ў 1658—61 і віленскі з 1661. Вымушана падпісаў ад імя Віленскай капітулы *Кейданскі дагавор 1655* аб уніі ВКЛ са Швецыяй. У Верках у 1663 заклаў Віленскую Кальварыю як вотум за вызваленне айчыны.

Станіслаў (?—1666 або 1667), сын Габрыеля. Вількамірскі падсудак, суддзя земскі з 1649, падкаморы упіцкі, кашталян мсціслаўскі з 1662; пасол на соймы 1648, 1649, 1655.

Казімір Кароль (каля 1608, Троцкае ваяв.—да 8.10.1682), сын Габрыеля. Староста новамлынскі з 1628, падсудак вількамірскі ў 1634—57, маршалак упіцкі ў 1657—64, кашталян віцебскі ў 1664—67, ваявода менскі ў 1667—80; пасол на соймы 1648 і 1661, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1666—67. У 1649—51 ваяваў у войску Я.Радзівіла з казакамі, у 1658 — у палку М.Паца са шведамі пад Мітавай.

Крыштоф Казімір (Аляксандр; ?—5.3.1687), сын Казіміра Караля. Упіцкі падстолі з 1657, харужы з 1663, маршалак з 1671, вял. харужы ВКЛ з 1683; каралеўскі палкоўнік, староста упіцкі з 1676, керсноўскі і вірштынецкі; пасол на соймы 1667 і 1674. У 1683 заснаваў Дунілавіцкі кляштар дамініканцаў.

Марцыян (каля 1627—18.6.1707), сын Станіслава (?). Уступіў у манаскі ордэн базыльянаў і быў пасланы на вучобу ў Рым. Архімандрыт Гарадзенскага Каложскага Барыса-Глебскага манастыра, з 1661 — Віленскага Троіцкага, епіскап пінскі ў 1665—66, архімандрыт Лаўрышаўскага манастыра з 1671. Віленскім і Лаўрышаўскім манастырамі валодаў на падставе каралеўскіх прывілеяў, але без згоды кіраўніцтва базыльянскага ордэна, якое вяло супраць Марцыяна шматгадовыя суд. працэсы. У 1674 забраў усе правасл. цэрквы ў Тураве і ваколіцах. З 1697 архіепіскап полацкі. У 1699 дамогся каралеўскага прывілея, якім у унію абарачалася правасл. Магілёўская епархія з усімі яе цэрквамі і манастырамі, што цалкам не было ажыццёўлена з-за пачатку Паўн. вайны.

Крыштоф (?—1741), сын Уладзіслава. Канонік віленскі, канцлер віленскай і смаленскай капітул. Адзін з лідэраў антысапегаўскага саюза шляхты ў *феадальную вайну 1697—1702*. Патрабаваў ад караля Аўгуста II саксонскіх войск для разгрому Сапегаў. Ініцыятар расправы над М.Сапегам пасля Алькеніцкай бітвы 1700. У 1702 пасол шляхты ВКЛ да цара Пятра I, патрабаваў ад яго войск і грошай, каб змагацца з Сапегамі і шведамі. У 1703 у складзе пасольства шляхты ВКЛ да Пятра I, якое заключыла саюз, аддаючы ВКЛ пад пратэкцыю Масквы. У 1708—10 зняволены Сапегамі.

Ежы (?—пасля 1758), сын Аляксандра. Упіцкі падстолі з 1721, стольнік з 1735, суддзя земскі, пісар скарбовы ВКЛ з 1748, войскі упіцкі з 1756, староста новамлынскі; пасол на соймы 1738, 1748, 1758. Прыхільнік Радзівілаў, выконваў даручэнні М.К.Радзівіла Рыбанькі за мяжой і адстойваў яго інтарэсы на сойміках і сесіях Трыбунала ВКЛ.

*Літ.*: Żychliński T. Złota księga szlachty polskiej. Rocznik 5. Poznań, 1883; Рачкоў І. Белазоры Гарадзенскай і Віленскай губерняў у XVIII—XX ст. // Герольд Litherland. 2002. № 1—2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Белапятровіч** Ежы (1740—16.3.1812), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. У 1764 лідскі стражнік, удзельнічаў у выбранні караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1771 лідскі лоўчы. Да 1784 сакратар падканцлера ВКЛ І.*Храптовіча*. У 1780 гродскі суддзя ў Навагародку. Пасол на сойм 1780 ад Інфлянцкага ваяв. У 1780—84 чл. *Пастаяннай Рады*, удзельнічаў у рабоце дэпартамента справядлівасці. У 1783—87 пісар вайсковы ВКЛ, у 1787—89 ротмістр у 1-й брыгадзе нац. кавалерыі ВКЛ. У 1792 чл. дэпутацыі па складанні новага кодэкса законаў. Удзельнік *паўстання 1794* пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі. 24 крас. зачытаў перад віленцамі на гар. рынку акт аб пачатку паўстання ў ВКЛ. Чл. *Найвышэйшай літоўскай рады*, суддзя крымінальны ВКЛ. З утварэннем *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага* кіраўнік аддзела вайсковых патрэб. З 1808 чл. судовай камісіі па адукацыйных фундушах для зах. губерняў. У 1810 заснаваў Т-ва дабрачыннасці ў Навагрудку, яго першы старшыня. Сімпатызаваў Напалеону. За справядлівасць, самадданае выкананне грамадскіх і службовых абавязкаў Б. называлі «літоўскім Арыстыдам». Як і інш. актыўныя ўдзельнікі паўстання, увекавечаны ў паэме А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш».

*Літ.*: Korzon T. Wewnętrzne dzieje Polski za St.Augusta (1764—1794). Kraków; Warszawa, 1897. T. 4. S. 269; Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917. S. 140, 229, 381, 398; Akty powstania Kościuszki. Kraków, 1918. T. 1. S. 229—230; T. 2. S. 415.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Беларуска-літоўскі летапіс 1446**, першы агульнадзяржаўны летапісны звод ВКЛ, прысвечаны гісторыі ўсх. славян і Літвы. У яго аснове — летапіс, складзены каля 1430 у Смаленску невядомай асобай духоўнага сану ў асяроддзі епіскапа, у 1432—35 — мітрапаліта Герасіма, гарачага прыхільніка агульнарус. праграмы вял. князя *Вітаўта*, і прадоўжаны пазней да 1446. Першапачатковая рэдакцыя не захавалася. У 1490-я г. ўзнікла 2-я рэдакцыя

(*Нікіфараўскі летапіс, Супрасльскі летапіс, Акадэмічны летапіс*), каля 1500 — 3-я, скарочаная рэдакцыя (*Слуцкі летапіс*).

Храналагічна ахоплівае перыяд ад сярэдзіны 9 да сярэдзіны 15 ст. Звесткі па гісторыі Русі за 854—1427 запазычаны з рус. летапісаў (мітрапаліта Фоція 1420-х г., Сафійскага 1-га і Наўгародскага 4-га летапісаў), тэксты іх істотна скарочаны. У зводзе аб'яднаны самыя розныя гіст. запісы і творы, напісаныя ў Кіеве, Ноўгарадзе, Маскве, Вільні, Смаленску, у велікакняжацкай канцылярыі і асяроддзі духавенства, свецкім дзелавым і кніжна-слав. стылямі, на стараж.-рус. і

**Беларуска-Літоўскі летапіс 1446**.
Старонка Нікіфараўскага спіса.

старабел. мовах, што надае яму пэўную стракатасць і незавершанасць. Аднак адзінства тэмы і гіст. канцэпцыі, дзярж. погляду на падзеі робяць летапіс адносна цэласным творам. З мясцовых твораў увайшлі *Смаленская хроніка*, *«Пахвала Вітаўту»*, смаленскія пагадовыя запісы за 1432—46 і *«Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»* з *«Аповесцю пра Падолле»*. Паводле характару — гэта агульнарус. звод. Паліт. гісторыя Літвы, Беларусі, часткова Украіны 14—1-й пал. 15 ст. пададзена ў цеснай сувязі з гісторыяй Маскоўскай Русі і пераемнасці з гісторыяй Кіеўскай Русі. Шмат увагі аддаецца апісанню гераічнай барацьбы ўсх. славян з іншаземнымі заваёўнікамі, а таксама княжання Вітаўта, гал. героя арыгінальнай часткі летапісу, у якой сцвярджаецца магутнасць і высокі міжнар. аўтарытэт гэтага князя, ухваляецца яго аб'яднаўчая палітыка на Русі. Большасць звестак бел.-літ. часткі летапісу унікальныя, не паўтараюцца ў іншых крыніцах таго часу. Аўтар зводу праводзіў ідэю гіст. еднасці ўсх. славян і абгрунтоўваў заканамернасці іх паліт. аб'яднання ў складзе ВКЛ, якое лічыў вядучым цэнтрам збірання ўсх.-слав. земляў. У летапісе выявіліся імкненні перадавых грамадскіх колаў Літвы, Беларусі і Украіны 1-й пал. 15 ст., у ім упершыню асэнсавана і раскрыта важная гіст. роля ВКЛ ва Усх. Еўропе. Складзены пад уплывам традыцый усх.-слав. летапісання. Своеасаблівасць грамадска-паліт. і культ.-духоўнага жыцця Літвы і Беларусі 15 ст., надзённых ідэйна-маст. задач, якія стаялі перад бел.-літ. летапісцамі, абумовілі шмат у чым адметны характар гэтага помніка. У ім спалучаны традыц., пагадовая форма выкладу з прагматычным звязным апавяданнем пра мінулае, гіст. аповесці з кароткімі дзелавымі запісамі, літаратура і дакумент. Летапіс — каштоўная крыніца па гісторыі народаў Усх. Еўропы, сведка living рознабаковых узаемасувязей рус., бел., укр. і літ. народаў эпохі сярэдневякоўя. Захаваў шэраг звестак па гісторыі Паўн.-Усх. Русі 14—1-й трэці 15 ст., якіх няма ў інш. рус. летапісах, таму мае значэнне і для даследавання рус. летапісання таго часу. Паслужыў крыніцай для *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*, *Хронікі Быхаўца* і інш. летапісных твораў у ВКЛ і Расіі 16—17 ст. Адкрыты і ўпершыню апубл. І.*Даніловічам* у 1823—24 у час. «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»). Змешчаны ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, 1907, т. 35, 1980).

*Літ.*: Чамярыцкі В.А. Беларускія летапісы як помнікі літаратуры. Мн., 1969; Улашчык Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**беларуская мова**, мова беларускага народа, пераважнага ў ВКЛ славянскага этнасу. Разам з рус. (маскоўскай) і ўкр. належыць да групы ўсх.-славянскіх моў індаеўрапейскай сям'і. Першапачаткова называлася «рускай», «літоўскай», «простай» [у адрозненне ад «словенскай» (царкоўнаславянскай) і «маскоўскай» (цяпер — рускай)], хаця тапонім Белая Русь у дачыненні да бел. зямель вядомы з сярэдзіны 16 ст. Сярод айч. мовазнаўцаў для яе прынята назва «старабеларуская». Паводле прынятай у Рас. імперыі афіцыйнай канцэпцыі, паходзіць з адзінай стараж.-рус. прамовы, як і самі яе носьбіты разам з рускімі і ўкраінцамі — з адзінага стараж.-рус. этнасу. Аднак некат. даследчыкі (С.Смаль-Стоцкі, Р.Піўтарак, В.Грыцкевіч і інш.) прытрымліваюцца думкі аб самаст. паходжанні кожнай з усх.-слав. моў з агульнаславянскай прамовы. На карысць гэтага адлюстраванне фанетычных, граматычных і лексічных рыс бел. жывога маўлення ўжо фактычна ў першых арыгінальных тэкстах, створаных на бел. тэрыторыі — граматах смаленскага кн. Мсціслава Давыдавіча з Рыгай і Гоцкім берагам 1229, полацкага епіскапа Якава 1300, вял. княгіні Ульяны царкве ў Азярышчах 1377 і інш. Некат. асаблівасцям абавязана балцкаму моўнаму субстрату (пазіцыйная мяккасць зычных, ётацыя пры збегу галосных, клічны склон, ступені параўнання прыметнікаў і прыслоўяў з прыназоўнікам «за», асобая форма загаднага ладу для выражэння сумеснасці, дробавыя лічэбнікі тыпу «паўтраця», структурна-семантычная блізкасць некаторых займеннікаў, прыслоўяў і прыназоўнікаў, агульная валентнасць паасобных дзеясловаў і інш.). На мову пераважнага слав. этнасу разам з прыняццем праваслаўя перайшлі стваральнікі ВКЛ вял. князі літоўскія. Пісьмо — кірылічнае з паслядоўна змяняючымі адзін аднаго тыпамі пісьма — *уставам*, *паўуставам*, *скарапісам*, для ўпрыгажэння загалоўкаў ужывалася таксама вязь. У бел. пісьме ў гукавым значэнні ўжо не было шэрагу архаічных літар накшталт ѩ, ѫ, ѭ, ѯ, ѱ, ѵ. Для запісу бел. тэкстаў часам выкарыстоўвалася і лацінка. Вельмі рана пранікла ў некананічную рэліг. л-ру (Чэцця 1489, *«Страсці Хрыстовы»*, *«Аповесць пра трох каралёў»*, *«Жыціе Аляксея, чалавека Божага»*. На хвалі Рэфармацыі з ініцыятывай увядзення Б.м. ў сферу кананічнай л-ры выступіў Ф.*Скарына*, які выдаў «Бивлию руску» на бел. рэдакцыі царк.-слав. мовы. Яго паслядоўнікі С.*Будны* і В.*Цяпінскі* выканалі задачу рэфармацыйнага руху. Яны пераклалі кананічныя тэксты на бел. мову, што азначала пераход ад сітуацыі дыглясіі [з функцыянальным размеркаваннем паміж кніжнай (царкоўнаславянскай) і някніжнай (беларускай)

мовамі] да сітуацыі царкоўнаславянска-беларускага двухмоўя (з паралелізмам функцый). У пач. 16 ст. на хвалі Рэнесансу пад уплывам пашырэння выкарыстання бел. мовы ў афіц. ужытку рос яе аўтарытэт, у выніку чаго на яе пачалі перакладаць свае рэліг. кнігі этнічныя меншасці ВКЛ — яўрэі і татары (апошнія захавалі пры гэтым *арабскае пісьмо*). У 16 ст. ўжо скլаліся ўсе важнейшыя фанетычныя, граматычныя і лексічныя рысы старабел. літ.-пісьмовай мовы. Як сведчанне стылявога багацця Б.м. развіліся 3 разнавіднасці пісьменнасці — рэлігійная, свецка-мастацкая і дзелавая. У граматыцы адбыўся пераход ад сістэмы скланення па асновах да скланення па родах. У фарміраванні слоўніка значную ролю адыгралі запазычанні з польск., лац., ням., літоўскай і цюркскіх моў. Услед за перакладам Цяпінскім Евангелля ў 16 — пач. 17 ст. на бел. мову былі перакладзены Біблія, Псалтыр (неаднаразова). Найб. аб'ём тэкстаў на Б.м. складаюць дзелавыя (Статуты ВКЛ 1529, 1566, 1588, «Трыбунал», Метрыка ВКЛ і інш.), у якіх Б.м. дасягнула асабліва высокай ступені ўнармаванасці і апрацоўкі. Ва ўмовах адсутнасці граматык і слоўнікаў іх ролю выконвалі ўзоры пісьмовых тэкстаў. Б.м. як афіцыйная (акрамя справаводства) ужывалася пры дыпламат. зносінах, асабліва з Вял. княствам Маскоўскім. Пасля Скарыны на бел. мове шырока выдаваліся друкаваныя кнігі [«Казанне святога Кірыла...» С.Зізанія (Вільня, 1596), «Два казанні...» Л.Карповіча (Еўе, 1615), «Евангелле вучыцельнае» (Еўе, 1616), «Кінавіён» (Еўе, 1618), «Казанне... на чэснае пахаванне...Лявонція Карповіча» М.Сматрыцкага (Вільня, 1620), «Паўустаў, або Трэбнік» (Вільня, 1622), «Бяседы Макарыя» (Вільня, 1627), «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа», «Дзідаскалія» С.Косава (абедзве Куцеін, 1637)]. На Б.м. ствараліся арыгінальныя свецка-мастацкія творы (летапісы, мемуары, паэтычныя творы — *Баркулабаўскі летапіс*, мемуары Ф.*Еўлашоўскага*, вершы Скарыны, Буднага, А.*Рымшы*, С.*Рысінскага* і інш., перакладалася свецка-мастацкая л-ра — легендарныя аповесці пра Аляксандра Македонскага, Трыстана і Ізольду, Баву. У асобных пісьмовых тэкстах выразна адлюстраваліся асаблівасці тагачасных народных гаворак Б.м., на яе аснове ўзнік шэраг сац. дыялектаў (адверніцкая гаворка, катрушніцкі лемезень, парушніцкі лемез, мова лабараў і інш.). Створанае для рэліг. тэкстаў кірылічнае пісьмо, якое атаясамлівалася з фіксуемымі ім хрысціянскімі догматамі, і таму было, як і самі гэтыя догматы, недатыкальным, не дазваляла на ўзроўні нормы адлюстраваць некат. важнейшыя рысы жывога маўлення [«дзеканне-цеканне», «аканне-яканне», пераход «л» у «в» («ў»), падаўжэнне зычных, пераход «е» ў «о», прыстаўныя «в» і «г»]. Гэта дае падставу па-імперску і па-дзяржаўніцку настроеным вучоным і публіцыстам суседніх краін адмаўляць Б.м. ў самастойнасці. Аднак за агульнай пісьмовай абалонкай агульнаўсходнеславянскіх слоў хавалася рознае іх вымаўленне рознымі ўсх.-славянскімі народамі. Пасля *Люблінскай уніі 1569* бел.-літ. шляхта, якая імкнулася ўраўнавацца ў федэратыўнай дзяржаве ў правах з польскай, усё больш паланізавалася. З мэтай абароны Б.м. ў Статуты 1566 і 1588 гг. былі ўключаны адпаведныя артыкулы. У гэты час побач з Б.м. усё часцей у розных сферах ужываліся таксама польская і лац. мовы, пакуль соймавай пастановай *«Ураўнаванне правоў» 1697* яна была заменена ў афіц. ужытку польскай мовай. Апошняя друкаваная кніга на старабел. мове «Збор выпадкаў кароткі» выйшла ў Супраслі ў 1722. Пасля гэтага пачаўся заняпад старабел. літ.-пісьмовай мовы, што азначала перарыў пісьмовай традыцыі. Новая бел. літаратурная мова ўзнікла пасля працяглага перапынку ўжо цалкам на нар. аснове ў выглядзе рэплік персанажаў з народа ў школьных інтэрмедыях у 2-й пал. 18 ст.

*Літ.*: Карский Е.Ф. К истории звуков и форм белорусской речи. Варшава, 1893; Филин Ф.П.Образование языка восточных славян. М.; Л., 1962; Яго ж: Происхождение русского, украинского и белорусского языков. Л., 1972; Жураўскі А.І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 1. Мн., 1967; Антонович А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом. Вильнюс, 1968; Булыка А.М.Развіццё арфаграфічнай сістэмы старабеларускай мовы. Мн., 1970; Яго ж: Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV—XVIII стст. Мн., 1980; Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 1—22. Мн., 1982—2002; Янкоўскі Ф. Гістарычная граматыка беларускай мовы. 2 выд. Мн., 1983; Шакун Л.М. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1984; Мова беларускай пісьменнасці XVI—XVIII стст. Мн., 1988; Булыка А.М., Жураўскі А.І., Свяжынскі У.М. Мова выданняў Францыска Скарыны. Мн., 1990; Саверчанка І.В.Старажытная паэзія Беларусі, XVI—першая палова XVII ст. Мн., 1992; Свяжынскі У. Праблема ідэнтыфікацыі афіцыйнай мовы Вялікага княства Літоўскага // METRICIANA. Мн., 2001. Т. 1.

***Уладзімір Свяжынскі.***

**Беларуская праваслаўная епархія**, гл. *Магілёўская праваслаўная епархія*.

**беларуская рэзь**, манументальна-дэкаратыўная аб'ёмна-ажурная разьба па дрэве, якой бел. майстры аздаблялі храмы і палацы ў Маскоўскай дзяржаве



Да арт. **Беларуская рэзь**. Царскія вароты Магілёўскай Мікалаеўскай царквы. 1669—72. Магілёўскі краязнаўчы музей.

ў 17 ст. Вядомая і як «флемская» разьба (ад ням. Flamme полымя). На ўзорах Б.р. расліны пераплятаюцца з гронкамі, у іх уплятаюцца выявы птушак, жывёл, чалавека. Разьбу пакрывалі ляўкасам і залацілі. Да сярэдзіны 17 ст. ў Расіі існавала плоская разьба. Бел. майстры прынеслі ў Маскоўскую дзяржаву майстэрства разьбы, што развівалася на Беларусі з канца 16 ст. пад уплывам мастацтва рэнесансу і барока. Лепшыя яе ўзоры — іканастасы Богаяўленскага сабора (2-я чвэрць 17 ст., не захаваўся) і Мікалаеўскай царквы ў Магілёве (3-я чвэрць 17 ст.). У Маскоўскай дзяржаве бел. разьбяры выканалі работы ў Васкрасенскім саборы Новаіерусалімскага манастыра на Істры (1658), аздобілі іканастасы цэркваў у Ізмайлаве і ў Данскім манастыры пад Масквой. У 1667—68 яны рабілі пазалочаныя калонкі, капітэлі, карнізы,





Да арт. **Беларуская рэзь**. Клім Міхайлаў, Дарафей Залатароў. Іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве. 1683–86. Фрагмент.



Да арт. **Беларуская рэзь**. Клім Міхайлаў, Дарафей Залатароў. Іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве. 1683–86. Фрагмент.

ліштвы, а таксама мэблю Каломенскага палаца. Сярод работ бел. майстроў Каломенскага палаца асабліва вылучаецца буйнамаштабны іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве (1683—86) з 84 калонкамі, пераплеценымі вінаграднай лазой, карнізамі і картушамі. Б.р. дасягнула росквіту на мяжы 17—18 ст.; яе традыцыі захоўваліся да пач. 19 ст. Сярод майстроў Б.р. найб. вядомыя К.*Міхайлаў*, старцы *Арсеній* і *Іпаліт*, пазалотчык Д.Залатароў.

***Яўген Сахута.***

**Беларускі архідыяканат**, адм.-тэр. адзінка каталіцкай царквы. Створаны ў 1619 віленскім біскупам А.Валовічам у *Віленскай рымска-каталіцкай епархіі* для кіравання ўсх., «рускімі», абласцямі гэтага самага вял. ў ВКЛ біскупства. Цэнтр Б.а. — *Абольцы* ў Віцебскім ваяв. Першы архідыякан — Я.Х.Ражнятоўскі. У 1639 архідыяканам беларускім дадзены тытул біскупаў-суфраганаў з правам нашэння мітры. На іх забеспячэнне быў вылучаны маёнтак Павявёрка ў Свянцянскім дэканаце і падатак у 50 злотых з Віленскай сінагогі.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Беларускі архіў»**, зборнік дакументаў па сац.-эканам. гісторыі Беларусі 15—18 ст. Падрыхтаваны гіст.-археал., пазней Археаграфічнай камісіяй Ін-та бел. культуры, выдадзены пад кіраўніцтвам Дз.І.Даўгялы ў Мінску (т. 1—3, 1927—30). 1-ы том выйшаў з контртытулам «Працы і матэр'ялы да гісторыі і археолёгіі Беларусі».

У 1-м томе змешчаны дакументы з архіваў Кракава, Варшавы, С.-Пецярбурга, Масквы (копіі са збораў М.В.Доўнар-Запольскага) і Магілёва. 1-ы раздзел «Справы вышэйшых устаноў» уключае пагадненне Рады ВКЛ з Жыгімонтам II Аўгустам 1548, у якім вызначаюцца «замки, места, дворы, именья и волости», што маюць права трымаць вял. князь літоўскі і яго нашчадкі. Другую тэматычную групу складаюць 24 лісты Жыгімонта II Аўгуста з часоў Берасцейскага сойму 1566 да земскага маршалка ВКЛ, жамойцкага старасты Яна Гераніма Хадкевіча і падканцлера ВКЛ, берасцейскага і магілёўскага старасты Астафія Валовіча. 2-і раздзел «Справы мясцовых устаноў» змяшчае акты па гісторыі Магілёўшчыны (28 актаў за 1562—1600, 106 — за 1601—97). Большасць актаў паходзіць з рукапісу 1678, дапоўнены дапісамі да пач. 18 ст. Пераважаюць дакументы адм. устаноў (велікакняжацкая канцылярыя, скарбовыя ўстановы) па гісторыі Магілёва ў першыя 150 год пасля атрымання ім магдэбургскага права ў 1577 (прывілеі, інвентары, рэвізіі і інш.). Прыведзены звесткі па розных аспектах гарадскога жыцця, пра сац. становішча насельніцтва, гандаль, рамёствы, дзейнасць гар. рады, пра гар. ўмацаванні і г. д. Змешчаны 2 важныя дакументы : «Устава нового и старого мыта, з скарбу, выданая месту Могилеву» (1629) і «Реестр уписания братий прасолов в месте Могилеве» (выяўлены ў Магілёўскім акруговым Аддзеле Цэнтраархіва). У 3-м раздзеле апублікаваны 4 скарбовыя дакументы 1548—1610, у т.л. справаздача земскага падскарбія і пісара ВКЛ Яраша Валовіча за 1604—10.

2-і том, падрыхтаваны ў 1928, больш аднастайны па зместу. У ім змешчана кніга запісаў № 16 з фондаў *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага* пад назвай «Книги справ судовых бояр, мещан и волостных людей Витебского и Полоцкого повету за пана Яна Юр[ъ]евича Глебовича, воеводы витебского и потом полоцъкого отправованых от року тисеча пятьсот трыдцать осьмаго». На думку Даўгялы, гэта копія пач. 17 ст. (відаць, 1602), зробленая з арыгінала сярэдзіны 16 ст. Як сцвярджае даследчык, «мы маем перад сабой толькі рэшткі судовых спраў і актаў б. канцылярыі ваяводы Віцебскага, а затым Полацкага Яна Глябовіча 1530—1539 гадоў, толькі фрагменты колішніх кніг судовых і вячыстых запісаў ваяводзкай канцылярыі». У зборы Метрыкі ВКЛ кніга № 16 трапіла, напэўна, пасля назначэння ў 1542 Глябовіча на пасаду віленскага ваяводы. Гэта пераважна розныя судовыя справы, акты адносна землеўладання, землекарыстання, маёмасці, сял. падаткаў, мяшчан, нац. меншасцей, гандлю. Ёсць звесткі пра маёмаснае становішча Ф.Скарыны, В.Цяпінскага і іх родзічаў. Матэрыялы адносяцца пераважна да гісторыі Усх. Беларусі 1530-х г.

3-і том — «Менскія акты. Вып. 1» выйшаў на правах рукапісу. Падрыхтаваны Даўгялам ў 1930. Праца над кнігай, верагодна, не скончана (адсутнічае прадмова, пераблытаны нумары актаў). Большасць дакументаў выяўлена ў фондах Метрыкі ВКЛ (кнігі запісаў № 18, судовых спраў № 71), Разраднага стала (Рас. дзярж. ваен. архіў, стол № 270), Мінскага гіст. архіва, Пецярбургскага архіва Мін-ва земляробства. Змешчана 245 актаў 1494—1791, 187 з іх 17—18 ст. Гэта пераважна дакументы сац.-эканам. зместу (гандлёва-прадпрымальніцкая дзейнасць розных сац. слаёў, скарбовыя рахункі, суд. справы аб падатках, маёмасці і інш.), заканад. і ўстаўныя акты (у т.л. граматы



на магдэбургскае права, прывілеі, соймавыя пастановы, уставы на фурманкі, канфірмацы праў яўрэям, татарам, праваслаўнай і інш. цэрквам, духавенству), матэрыялы адносна цэхавага строю, рамесніцкай дзейнасці (статуты, фрагменты «Книги вечистых дел» цэха менскіх шаўцоў за 1666—1780). Асобна змешчаны царскія ўказы, чалабітныя менскіх мяшчан, шляхціцаў, распараджэнні царскіх ваяводаў і інш. службовых асоб за 1655—60.

Першыя 2 тамы «Б.а.» выдадзены на даволі высокім археаграф. узроўні, па правілах, распрацаваных Археаграф. камісіяй у пач. 20 ст. Дакументы апублікаваны на мовах арыгіналу (бел., рус. і польскай). Змешчаны імянныя, геагр., прадметныя паказальнікі, каментарыі. 3-і том выдадзены больш спрошчана. «Б.а.» — найб. значнае навук. археаграф. выданне Беларусі даваен. часу.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973.

***Георгій Галенчанка.***

**Беларускі полк**, Беларускі казацкі полк, вайсковая адзінка на Беларусі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У пач. вайны рас. ўрад разлічваў выкарыстаць мясц. шляхту як сац. апору на Беларусі. Шляхціцам, калі яны пяройдуць у рас. падданства, абяцалася пакінуць зямельныя ўладанні і даць новыя прывілеі. Таму мясц. шляхта імкнулася стаць на чале руху нар. мас, каб надаць яму выгадны для сябе кірунак. Магілёўскі шляхціц К.*Паклонскі*, якому рас. ўрад надаў чын палкоўніка, у ліп.—жн. 1654 стварыў у Чавусах полк са шляхты, гараджан і сялян з ваколіц Магілёва, Мсціслава і Чавус (6 тыс. чал.). У сярэдзіне жн. 1654 Б.п. падышоў да Магілёва, удзельнічаў ва ўзяцці яго ў вер. 1654. Па просьбе Паклонскага цар Аляксей Міхайлавіч перадаў яму ў часовае кіраванне Магілёў і Магілёўскі пав., які быў пераўтвораны ў палкавую адм.-тэр. адзінку і апынуўся пад кіраўніцтвам мясц. шляхты. Паклонскі імкнуўся падначаліць шляхце Бел. Падняпроўе. Яго палітыка супярэчыла інтарэсам вызваленчай барацьбы нар. мас, абвастрыла адносіны і з казацкай старшынай І.*Залатарэнкі*, і з мясц. сялянствам. Сяляне і гар. нізы, пераканаўшыся, што камандаванне Б.п. не вядзе барацьбу супраць шляхты, уцякалі з палка, а тыя, што асталіся, не падпарадкоўваліся камандаванню. У лютым 1655, у час *Магілёва абароны 1655* Паклонскі і Б.п. перайшлі на бок войска ВКЛ. 2) Назва рэштkaў укр. казацкага войска Залатарэнкі (пасля яго гібелі) на чале з І.*Нячаем* у 1656—59. Камандаванне палка знаходзілася ў Чавусах, таму полк яшчэ называлі Чавускім.

***Мікалай Камінскі.***

**беларусы**, народнасць, адна з буйнейшых этнічных груп у ВКЛ. Землі сучаснай Беларусі ўвайшлі ў склад ВКЛ у сярэдзіне 13—14 ст. Полацкая, Віцебская, Навагародская землі, а таксама Слуцкае, Кобрынскае, Мсціслаўскае і інш. княствы мелі ў ВКЛ пэўную сац.-эканам. і прававую аўтаномію. У складзе адзінай дзяржавы спыніўся працэс іх феад. драблення, што садзейнічала стварэнню агульнай этнічнай тэрыторыі Б. Сац.-эканам., паліт., дэмаграфічныя і этнакультурныя фактары абумовілі пашырэнне этнасацыяльных сувязей паміж рознымі тэрытарыяльнымі часткамі Беларусі і ўнутрыэтнічную кансалідацыю. На працягу 15—16 ст. у ВКЛ павялічылася колькасць гарадоў і мястэчак, узмацніліся гандл. сувязі паміж імі, вырасла доля гандлёва-рамесніцкага насельніцтва, павысілася таварнасць і прадукцыйнасць сельскай гаспадаркі, праведзены адм.-тэр. і аграрна-гасп. рэформы; кадыфікацыя і уніфікацыя дзярж. юрыд. норм завяршылася складаннем Статутаў ВКЛ 1529, 1566 і 1588. Для бел. сялянства і гараджан асн. каштоўнасцю была этнагенетычная спадчына, якая аб'ядноўвала розныя тэрытарыяльныя групы Б. на аснове агульнасці іх гіст. лёсу, культуры, мовы, рэлігіі. Значную ролю адыгрывалі фактар кампактнага рассялення Б. і іх дэмаграфічнае становішча (бел. землі складалі большасць тэрыторыі ВКЛ, а насельніцтва — асн. этнічны масіў). Б. складалі значную частку насельніцтва і ў гарадах этнічнай Літвы — Троках, Коўне, сталіцы ВКЛ Вільні. Дамінуючае дэмаграфічнае становішча Б. у межах ВКЛ і высокі ўзровень развіцця іх культуры вызначылі поліэтнічны характар пашырэння іх мовы. Старабеларуская («руская») мова была афіцыйнай дзярж. мовай ВКЛ, сродкам зносін паміж усх.-слав. насельніцтвам і літоўцамі-аўкштайтамі, жамойтамі, латгаламі і больш дробнымі этнічнымі групамі (татарамі, яўрэямі, цыганамі, караімамі і інш.).

У перыяд складвання бел. народнасці этнакансалідуючую функцыю адыгрываў і канфесіянальны фактар, калі адбывалася сумяшчэнне і ўзаемадапаўненне рэліг. і этнічнай свядомасці. Большасць усх.-слав. насельніцтва ВКЛ да 16 ст. вызнавала праваслаўе, прынятае ім у канцы 10 ст. Гэтага веравызнання трымалася таксама частка насельніцтва этнічнай Літвы і Жамойці. Пасля дынастычнага саюзу ВКЛ і Польскага каралеўства (гл. *Крэўская унія 1385*) на землях Літвы і Беларусі пачало пашырацца каталіцтва, у 16 ст. ў сувязі з еўрапейскім рэфармацыйным рухам — пратэстантызм (лютэранства, кальвінізм і інш.), а пасля *Берасцейскай уніі 1596* — уніяцтва. Пасля *Люблінскай уніі 1569* з боку Польшчы ў адносінах да Б. пачала актывізавацца палітыка акаталічвання і *паланізацыі*, што найперш закранула шляхецкае саслоўе ВКЛ, якое разам з феадаламі Польшчы і Украіны аб'ядналася ў т.зв. «шляхецкі народ Рэчы Паспалітай». Больш за палову бел. шляхты ў 17 ст. спавядала каталіцкую ці уніяцкую веру, карысталася польскай мовай і прытрымлівалася агульнасаслоўных стэрэатыпаў ладу жыцця і паводзін (напр., панібрацтва). Усе этнастваральныя фактары, што садзейнічалі складванню бел. народнасці ў 14—16 ст., у цэлым мелі аб'яднальную тэндэнцыю. Жыхары абшчыны сваю супольнасць звычайна вызначалі агульным сельскім ці валасным этніконам, які паходзіў ад назвы сяла ці цэнтра воласці. У межах паветаў, княстваў, зямель, ваяводстваў насельніцтва аб'ядноўвалася вакол гарадоў і мястэчак у т.зв. зямляцтвы (напр., мазыране, палачане, мсціслаўцы, случане і інш.). Зямляцкія этнонімы былі ўстойлівыя і ў самой Беларусі, і за яе межамі. У 14—16 ст. значна пабольшала роля працэсаў этнагенетычнай кансалідацыі і агульнадзярж. інтэграцыі. Пра гэта сведчыць пашырэнне этнонімаў *«русіны»* («рускія») і *«літвіны»*. Руссю (рускімі землямі) у той час называлі ўсх. і цэнтр. тэрыторыі Беларусі. Кампактны арэал назвы «літвіны» бытаваў пераважна ў раёнах Вілейкі, Смаргоні, Ашмян, Крэва, Маладзечна, Ліды і інш. (т.зв. Павілейская Літва). Але ў 16—17 ст. Літвой і літвінамі называлі ўсё насельніцтва ВКЛ. Канкрэтна Б. называлі «літвіны рускага роду», «літвіны рускай веры», «літвіны-беларусцы», «літоўскія беларусы», што адлюстравана і ў гіст. дакументах (напр., бел. першадрукар і

асветнік Ф.Скарына называў сябе палачанінам, русінам і ліцвінам).

Розныя ўзроўні працэсаў этнічнага формаўтварэння, саслоўна-класавая і канфесіянальная дыферэнцыяцыя адбіліся на складванні бел. народнасці, на разнастайнасці форм і элементаў яе культуры і побыту. Асаблівасцю гарадоў і мястэчак Беларусі быў хуткі рост. У канцы 16 ст. іх было больш за 300, а іх жыхары складалі каля 16—20 % насельніцтва. Многія з гарадоў і мястэчак мелі магдэбургскае права. Павялічвалася маёмаснае, прававое і саслоўнае размежаванне іх насельніцтва. Да асобных катэгорый належалі духавенства і арыстакратыя. Іншаэтнічнае насельніцтва часта не ўваходзіла ў катэгорыю мяшчан, а аб'ядноўвалася ў свае абшчыны з асобнымі правамі і прывілеямі. Паводле этнаканфесіянальнага стану мяшчанства многіх гарадоў Беларусі падзялялася на рускую (праваслаўныя ці уніяты), польскую (католікі, пратэстанты), яўрэйскую (іудзеі), татарскую (мусульмане) часткі.

Асн. масу насельніцтва Беларусі 14—16 ст. складалі сяляне. Яны падзяляліся на дзяржаўных, прыватнаўласніцкіх і царкоўных. У выніку агр. рэформы — валочнай памеры, праведзенай у ВКЛ у 16 ст., саслоўна-сац. і гасп.-эканам. арганізацыя сялянства змянілася і стала складацца з 3 асн. катэгорый: асадных сялян, цяглых сялян і слуг.

Асн. збожжавай культурай было жыта; сеялі таксама авёс, ячмень, проса, пшаніцу і інш. Былі пашыраны агародныя і садовыя культуры. З землеапрацоўчых прылад пераважала саха для парнай запрэжкі. Пры ляднай (падсечна-агнявой) сістэме апрацоўкі зямлі сяляне карысталіся матыкамі, баронамі, сукаваткамі, смыкамі. Збожжавыя культуры сеялі ўручную з сявенькі-лубянкі, жалі сярпом, малацілі цапамі, веялі зерне веялкай-шуфлікам, малолі на муку або абдзіралі на крупы. Павелічэнне плошчы ворных зямель суправаджалася ўзнікненнем новых пасяленняў. Іх памеры, характар узнікнення і інш. асаблівасці адлюстраваліся і ў назвах-вызначэннях. Побач з вядомымі са старажытнасці назвамі «сяло», «сяльцо», «весь», «вёска», «пагост» з 15 ст. пачалі сустракацца «слабада», «воля», «волька», «засценак», «селішча». Асн. тыпам планіроўкі новых пасяленняў быў вулічны, што адпавядаў афіцыйнаму плану забудовы. Існавала таксама бессістэмная, або кучавая, забудова. Асн. тыпам жылля была зрубная хата з 2 памяшканнямі (хата + сенцы). Вядома і 3-камернае жыллё (святліца + сенцы + жылое або гасп. памяшканне). Дах накрывалі саломай, дранкай, гонтай. Печы рабілі з комінам або без яго (курная хата). Вокны былі невялікія, іх закрывалі засаўкай, бычыным пузыром, прамасленай паперай, зрэдку шклом. Жылыя дамы заможнай шляхты былі значна большыя, шматкамерныя, часам 2-павярховыя.

Пэўныя асаблівасці мела архітэктура гарадоў і мястэчак, якія паступова набывалі урбанізаваны тып, набліжаны да зах.-еўрапейскіх традыцый горадабудаўніцтва. У іх павялічвалася колькасць мураваных пабудоў (найбольш у зах. абласцях). Мураванымі былі пераважна абарончыя (замкі) і культавыя (цэрквы, касцёлы), радзей жылыя, бытавыя і адм. пабудовы.

Да 16 ст. аднасіцца з'яўленне пэўных відаў адзення, якія пазней увайшлі ў традыцыйны бел. нар. касцюм. Асновай жаночага і мужчынскага строю заставалася кашуля (сарочка). Мужчынскі гарнітур дапаўняўся паясным (штаны, споднікі), плечавым (кафтан) і верхнім (кажух, армяк, даламан) адзеннем. У жаночы гарнітур уваходзіла плечавое і паяснoe адзенне (андарак, панёва, фартух, летнік, спадніца), розныя галаўныя ўборы (хустка, рантух, плахта, каптур, чапец, магерка, капялюш), а таксама паясы, кашулькі, упрыгожанні. З даўніх часоў на Беларусі бытаваў скураны абутак. Для сял. асяроддзя характэрнымі былі і лапці, пашытыя са скуры або сплеценыя з лыка.

Аснову харчовага рацыёну насельніцтва 14—16 ст. складалі прадукты земляробства, агародніцтва, жывёлагадоўлі. Дадатковымі крыніцамі былі паляўніцтва, рыбалоўства, бортніцтва. З напіткаў спажывалі мёд, квас, піва і інш.

Фальклор Б. перыяду фарміравання народнасці меў тыя самыя жанры і элементы, што і ў папярэднія стагоддзі: песні, магічныя заклінанні, звязаныя з язычніцкай абраднасцю, галашэнні, быліны, казкі, легенды, загадкі. Узнік і новы эпічны жанр — гіст. песні і паданні, гал. тэмай якіх была барацьба народа з іншаземнымі захопнікамі, а таксама з уласнымі прыгнятальнікамі. Шырока бытавалі лірычныя песні. Зліццём язычніцкіх і хрысціянскіх элементаў характарызаваліся многія абрады і звычаі, звязаныя з каляндарна-аграрнымі святамі і сямейна-бытавой абраднасцю.

Традыцыі перадаваліся ў спадчыну з пакалення ў пакаленне ў рамках сям'і. Тагачасныя сем'і падзяляліся на малыя (шлюбная пара і іх дзеці) і вялікія (бацькоўскія і братавы родзічы 2—3 пакаленняў, сваякі, якія мелі агульную маёмасць, вялі сумесную гаспадарку і лічыліся адным дымам). Распараджальнікам і галавой сям'і быў бацька, а ў выпадку яго смерці — маці (пры адсутнасці дарослага сына). Сямейна-бытавыя адносіны рэгламентаваліся звычаёвым і дзярж. сямейным правам.

Асн. вынікам дзейнасці комплексу сац.-эканам., паліт., этнічных працэсаў 14—16 ст. на Беларусі стала складванне самастойнай этнасацыяльнай супольнасці феад. тыпу — бел. народнасці і яе асн. этнічных прыкмет — мовы, культуры, самасвядомасці.

Цяжкім і складаным у гісторыі Б. быў перыяд 17—18 ст. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, *вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, *Паўночная вайна 1700—21*, шматлікія міжусобныя войны паміж магнатамі прывялі да сац.-эканам. крызісу Рэчы Паспалітай. Абвастрэнне сац.-класавых супярэчнасцей выклікала *антыфеадальную вайну 1648—51*. У ваенныя часы з-за людскіх страт рэзка зніжалася колькасць насельніцтва, што разам з узмацненнем феад.-прыгонніцкай эксплуатацыі і нац.-рэлігійнага ўціску негатыўна паўплывала на развіццё бел. народнасці. Змяншэнне колькасці карэннага насельніцтва адбілася на характары этнічнага развіцця Б., на іх мове, культуры, самасвядомасці. Арыентуючыся на польскую шляхту і жадаючы ні ў чым ад яе не адставаць, бел. шляхта на працягу 17—18 ст. у асн. масе была паланізавана. Бел. шляхта сумесна з украінскай, літоўскай і польскай складала своеасаблівую саслоўную поліэтнічную супольнасць Рэчы Паспалітай, асновай якой былі кампаненты польскай шляхецкай культуры, мовы, самасвядомасці і каталіцкай канфесіянальнай прыналежнасці. Сялянства, частка гараджан, ніжэйшага і сярэдняга духавенства, дробнай і часткова сярэдняй шляхты актыўна супраціўляліся паланізацыі, што забяспечвала этнаэвалюцыйнае развіццё бел. народа. Дыферэнцыяцыя бел. культуры на культуру нар. мас і пануючых саслоўяў



набывала ярка выражаную этнічную накіраванасць, калі менавіта народ захоўваў традыцыйнасць этнавызначальных прыкмет этнасу.

У 2-й пал. 18 ст. на Беларусі адбываўся прыкметны працэс развіцця эканомікі, аднаўлення гарадоў, павелічэння колькасці іх насельніцтва за кошт лёзных людзей, сялян і яўрэяў. На ПнУ і У Беларусі, сумежных тэрыторыях Смаленшчыны і Пскоўшчыны стабілізавалася назва *«Белая Русь»*, паступова ў шырокі ўжытак увайшлі паняцці «беларускі край», «беларускія гарады», «беларуская мова», «беларуская вера» (уніяцтва). Канфесіянальны склад заставаўся стракатым. На канец 18 ст. уніяты складалі 70 %, католікі 15 %, іудзеі 7 %, праваслаўныя 6 %, пратэстанты і інш. 2 % насельніцтва Беларусі. Палітыка паланізацыі закранула і мову. *«Ураўнаванне правоў» 1697* абвяшчала агульнадзярж. мовай польскую. Гэта яшчэ больш пагоршыла ўмовы развіцця духоўнай культуры бел. народа.

Драматычныя падзеі апошняй трэці 18 ст. шмат у чым прадвызначылі далейшы лёс бел. этнасу. У выніку 3 падзелаў Рэч Паспалітая знікла з паліт. карты Еўропы. У 1772, 1793 і 1795 яе тэрыторыя была падзелена Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У 1807 пасля далучэння да Рас. імперыі Падляшша ў яе складзе апынулася практычна ўся этнічная тэрыторыя Б. ад Беласточчыны да Смаленшчыны.

*Літ.*: Карский Е.Ф. Белорусы. Т. 1—3. Варшава; Пг., 1903—22; Гринблат М.Я. Белорусы: Очерки происхождения и этнической истории. Мн., 1968; Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя. Мн., 1985; Этнаграфія Беларусі: Энцыкл. Мн., 1989; Пилипенко М.Ф. Возникновение Белоруссии: Новая концепция. Мн., 1991; Беларусы. Т. 1—6. Мн., 1995—2002; Белорусы. М., 1998.

*Ігар Чаквін.*

**«Беларусь у эпоху феадалізму»** («Белоруссия в эпоху феодализма»), зборнік дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі ад стараж. часоў да 1861. Падрыхтаваны Ін-там гісторыі АН БССР і Архіўным упраўленнем пры СМ БССР. Выдадзены ў 4 тамах у Мінску (т. 1, 1959; т. 2, 1960; т. 3, 1961; т. 4, 1979). 1-ы том (ад стараж. часоў да сярэдзіны 17 ст.) уключае 3 раздзелы. Матэрыялы 1-га раздзела тычацца найб. ранняга перыяду гісторыі Беларусі, які знайшоў адлюстраванне ў пісьмовых крыніцах 6—1-й пал. 12 ст. Асвятляюцца працэсы распаду першабытнаабшчыннага ладу, развіццё феад. адносін, узнікненне і пераўтварэнне гарадоў у значныя цэнтры эканам. і паліт. жыцця. 2-і раздзел змяшчае дакументы перыяду феад. раздробленасці і ўтварэння ВКЛ. Значная частка наратыўных матэрыялаў апісвае міжусобную барацьбу князёў, войны супраць ням. рыцараў, літ., рус. і польскіх феадалаў, полаўцаў, татараў, развіццё гандлю з Рыгай, Готландам, дыпламат. і паліт. адносін з Польшчай; рус. княствамі, Прыбалтыкай. 3-і раздзел прысвечаны сац.-эканам. развіццю бел. зямель у складзе ВКЛ (15—1-я пал. 17 ст.), царкве і этнарэлігійным супярэчнасцям.

2-і том (сярэдзіна 17 ст.—18 ст.) уключае 3 раздзелы. 1-ы раздзел «Вызваленчая вайна беларускага народа. Барацьба за ўз'яднанне Беларусі з Рускай дзяржавай у сярэдзіне 17 ст.». У 2-м раздзеле характарызуюцца сац.-эканам. становішча розных слаёў насельніцтва, феад. і сял. гаспадарка, мануфактура, промыслы, гандаль. Асобны матэрыял асвятляе паліт. і нац.-рэліг. (пераважна антыкаталіцкія) рухі. 3-і раздзел прысвечаны гісторыі культуры Беларусі і храналагічна (16—18 ст.) выходзіць за межы зборніка (летапісныя звесткі, фрагменты з мемуараў Ф.Еўлашоўскага, «Дыярыуша» А.Філіповіча, выданняў Ф.Скарыны, В.Цяпінскага, граматы аб заснаванні школ, брацтваў, шпіталяў, шматлікія дакументы адносна дзярж. мовы і інш.).

3-і том (канец 18—1-я пал. 19 ст.) уключае 2 раздзелы. У 1-м раздзеле «Уз'яднанне Беларусі з Расіяй і яе развіццё ў першыя гады пасля ўз'яднання» змешчаны дакументы, якія асвятляюць паліт. і эканам. становішча Беларусі ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай і ў пач. 19 ст.; сац.-класавую палітыку Рас. імперыі, змены ў судовай сістэме, дзярж. кіраванні, гасп. развіцці. Прадстаўлены спісы маёнткаў, дараваных вярх. уладай мясцовым і рус. землеўласнікам, указы адносна дваранскіх выбараў, статуса купецкага і мяшчанскага саслоўяў, мануфактур, падаткаў, удзелу жыхароў Беларусі ў выбарах дэпутатаў для выпрацоўкі праекта новага Улажэння (1773) і інш. У 2-м раздзеле сабраны дакументы і матэрыялы пра эканам. развіццё Беларусі ў перадрэформенны перыяд, у 1813—60 (сельская гаспадарка, прам-сць, гандаль, гарады, насельніцтва і павіннасці).

4-ы том (1-я пал. 19 ст.) тэматычна і храналагічна працягвае і дапаўняе т. 3. Уключае 5 раздзелаў: 1-ы прысвечаны вайне 1812 (прыводзяцца некаторыя новыя звесткі пра ход ваен. дзеянняў, разарэнне насельніцтва, гарадоў, вёсак); 2-і асвятляе палітыку царскіх улад на Беларусі ў 1-й пал. 19 ст.; 3-і — становішча сялянства і сял. рухі; 4-ы — нац.-вызв. рух у яго сувязі з польскімі і рус. рэвалюцыянерамі-дэмакратамі (значная частка дакументаў тычыцца паўстання 1830—31, грамадска-паліт. рухаў у гады рэвалюцый 1848—49 у Зах. Еўропе). У 5-м раздзеле прадстаўлены дакументы і матэрыялы па гісторыі школ, бібліятэк, выдавецкай справы, асвятляюцца рэформы і пераўтварэнні ў сістэме нар. адукацыі (у т. л. «Статут навучальных устаноў, падначаленых універсітэтам», 1804), уплыў этнаканфесіянальных, сац. і паліт. фактараў на гісторыка-культ. працэс. Зборнік насычаны статыстычнымі табліцамі, губернатарскімі справаздачамі, канцылярскімі ведамасцямі, тапаграфічнымі апісаннямі і інш. Большасць дакументаў апублікавана на рус. і стараж.-бел. мовах, некаторыя акты — у перакладах з польскай і лац. моў. У канцы тамоў дадзены спісы апублікаваных дакументаў, прадметна-тэматычныя і геагр. паказальнікі. Значная частка матэрыялаў (асабліва за 17—19 ст.) апублікавана па архіўных крыніцах. Зборнік з'яўляецца найб. значным з дакументальных шматтомных выданняў, прысвечаных феад. перыяду гісторыі Беларусі, якія ўбачылі свет у 1950—70-я г. У ім выкарыстаны многія новыя крыніцы, выяўленыя ў архівах Масквы (Рас. дзярж. архіў стараж. актаў, Дзярж. архіў Рас. Федэрацыі), Пецярбурга (Рас. дзярж. гіст. архіў), Вільнюса (Дзярж. гіст. архіў Літвы), Мінска (Нац. архіў Рэспублікі Беларусь) і інш. Да недахопаў выдання адносіцца адсутнасць арыгінальных тэкстаў некаторых актаў і дакументаў; на ўнутр. перыядызацыі асобных раздзелаў адмоўна адбіліся дагматычныя канцэптуальныя схемы афіцыйнай бел. і рус. гістарыяграфіі.

*Георгій Галенчанка.*

**Беласток** (польск. Białystok, цяпер горад, цэнтр Падляскага ваяв., Рэспубліка Польшча), да канца 17 ст. сяло, пасля горад у Падляшскім ваяв., на р. Белая. Паводле некат. звестак, з 1-й пал. 15 ст. Б. — двор Рачкі Табутовіча, потым



Герб **Беластока**.

уладанне яго нашчадкаў. Упершыню ўпамінаецца ў 1514. З 1547 належаў *Весялоўскім*. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1581—84 П.Весялоўскі пабудаваў касцёл св. Тройцы, а ў 1617 пачаў буд-ва новага, які закончыў ужо яго сын. З 1646 у Тыкоцінскім старастве. Пасля згасання роду Весялоўскіх Б. кіравалі тыкоцінскія старасты. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1655 і 1660 спустошаны маскоўскімі войскамі. У 1657—58 Б. і стараствам кіраваў П.Сапега. У 1659 за перамогу над шведамі Б. перададзены С.*Чарнецкаму*. З 1685 належаў Браніцкім. Відаць, пры С.М.Браніцкім у 1692 Б. атрымаў магдэбургскае права і герб. У 1715 пабудавана сінагога, у 1697 — палац, у 1745—46 — ратуша. У 1749 Б. паўторна атрымаў гар. правы і герб: у чырвоным полі пад залатой каронай сярэбраны грыф, які трымае залатую манаграму K[lemens] B[ranicki]. Я.К.Браніцкі заснаваў у Б. царкву св. Мікалая (1727), пабудаваў цэрквы св. Роха (1750) і св. Марыі Магдаліны (1758). У 1771—1802 Б. — уласнасць Патоцкіх. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Літ.*: Mościcki H. Białystok: Zarys historyczny. Białystok, 1933; Wasilewski T. Białystok w XVI—XVII w. // Studia i materiały do dziejów miasta Białegostoku. Białystok, 1968. T. 1; Kowecka E. Dwór «najrządnieszego w Polsce magnata». Warszawa, 1991; Kościół katolicki na Podlasiu: zbiór dokumentów erekcyjnych i funduszowych. T. 3. Białystok, 1999.

***Валерый Грынявецкі.***

**Белая** (польск. Бяла-Падляска, Biała Podlaska, цяпер горад у Люблінскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Берасцейскім ваяв., на р. Кросна (Кшна). Упершыню як горад упамінаецца ў 1522. У 16 ст. належаў *Іллінічам*. Пасля смерці ў 1569 Ю.Іллініча Б. адышла да *Радзівілаў*, якія пабудавалі тут замак і палац. У 1671—78 пабудаваны касцёл і кляштар рэфарматаў. З 1628 у Б. знаходзіўся філіял Кракаўскай акадэміі. У 1747—49 узведзены царква і манастыр базыльян. 1.6.1621 Б. атрымала магдэбургскае права. У *Паўночную вайну 1700—21* у 1706 атрады шведаў паводле загаду Карла XII спустошылі Б. У 18 ст. вядома як цэнтр выт-сці сукна, дываноў і фаянсу. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Bartoszewicz J. Zamek Bialski. Lwów, 1881; Córny B. Monografia powiatu bialskiego województwa lubelskiego. Biała Podlaska. 1939; Łopaciński E. Zamek w Białej Podlaskiej: Materiały archiwalne // Biuletyn historii sztuki. 1957. № 1; Flisiński J. Akademia bialska, 1628—1773. Biala Podlaska, 1988; Jodłowski A. Założenie pałacowe Radziwiłłów w Białej Podlaskiej. Biała Podlaska, 1988; Rachuba A. Biała pod rządami Radziwiłłów (1568—1813) // Z nieznanej przeszłości Białej i Podlasia. Biała Podlaska, 1990. T.1; Karkucińska W. Anna z Sanguszków Radziwiłłowa (1676—1746), działalność gospodarcza i mecenat. Warszawa, 2000.

***Валерый Грынявецкі.***

**Белая Русь**, назва розных рэгіёнаў ва Усх. Еўропе, якая з 17 ст. найчасцей ужывалася ў дачыненні сучаснага бел. Падняпроўя і Падзвіння (адпавядала аднаму з асн. рэгіёнаў ВКЛ 15—16 ст. — *Русі*); з 19 ст. агульнапрынятая назва ўсіх тэрыторый, беларускіх паводле тагачаснай этнаграфічнай сітуацыі, а таксама ў форме *Беларусь* — нац. назва, прынятая ідэолагамі бел. нац. руху ў канцы 19 ст.

Упершыню зафіксавана ў лац. форме «Alba Ruscia» каля 1255—60 у геагр. трактаце *«Апісанне земляў»* (верагодна, у дачыненні да Наўгародскай рэспублікі). Шэраг звестак пра Б.Р. паходзіць з твораў паўд.-ням. паэтаў 1360-х г. — рыфмаванай хронікі Венгрыі Г. фон Мюгельна і вершаў П.Зухенвірта пра крыжацкія наезды на Пскоў. Пад 1381 назва адзінкава (да 2-й паловы 16 ст. такая лакалізацыя не паўтараецца) аднесена да Полацка, «крэпасці Б.Р.» ў «Хроніцы Польшчы» Яна з Чарнкава. У пач. 15 ст. часта сустракаецца ў дакументах, звязаных з канцылярыяй імператара Жыгімонта Люксембурга, у прыватнасці, у сувязі з *Канстанцкім саборам 1414—18*. Першае датаванае пазначэнне Б.Р. ў картаграфіі — на круглай карце свету *Фра Маўра* (1457). Да канца 15 ст. абсалютная большасць упамінанняў пра Б.Р. адносіцца да тэрыторыі *Наўгародскай рэспублікі;* за адзіным выключэннем, усе яны лацінска- або нямецкамоўныя. Узнікненне тэрміна «Б.Р.» і яго замацаванне ў сярэдневяковай геаграфічнай наменклатуры, магчыма, звязана з памылковымі ўяўленнямі схаластаў пра міфічную краіну Албанію («Белую»), якая «мяжуе на ўсходзе з Каспійскім морам



Герб **Белай**.



**Белая**.
Палац Радзівілаў.
Гравюра 1863.

і ўзыходзіць па ўзбярэжжы да Паўночнага акіяна» (Барталамей Англійскі, 13 ст.). У венгерскіх крыніцах 14—15 ст. Б.Р. фігуруе як назва Галіцка-Валынскай дзяржавы. А.Латышонак лічыць такое значэнне назвы першасным, выводзячы яго ад «белых харватаў» — назвы продкаў насельніцтва Галіча, трансфармаванай у Венгрыі ў «белых русінаў» у сувязі з прэтэнзіямі каралевіча Кальмана на галіцкі трон у 1210—20-х г.; паводле яго, «Alba Ruscia» для аўтара «Апісання земляў» — таксама Галіцка-Валынская дзяржава (уключаючы Берасцейска-Дарагічынскую, Турава-Пінскую і Новагародскую землі).

З апошняй чвэрці 15 ст. (лекцыі італьян. гуманіста Пампонія Леты, паэма М.Баярда «Закаханы Раланд» і карта свету Г.Мартэла з Фларэнцыі) фіксуецца назва «Б.Р.» у дачыненні да нізоўяў Дона і Дняпра. Гэтая другая «Russia Alba» паслядоўна не аддзялялася ад першай, бо, паводле геагр. уяўленняў сярэдневякоўя, вытокі Дона знаходзіліся далёка на Пн, побач з Ладажскім воз. Але з 1470-х г. назва ўжывалася пераважна да Маскоўскай дзяржавы Івана III. Змяненне значэння назвы «Б.Р.», зафіксаванае італьянцамі Дж.Вольпе, Дж.Мафэі дэ Вальтэра, А.Кантарыні, было выклікана ўваходжаннем у 1471—78 тэрыторыі Наўгародскай рэспублікі ў склад Вял. княства Маскоўскага. Вядомая еўрапейцам назва Ноўгарада як «Б.Р.» зрабілася сінонімам малазнаёмай Масковіі. Замацаванню ў еўрапейскай традыцыі тэрміна «Russia Alba» у такім значэнні паспрыяла і выкарыстанне панегірыстамі маскоўскага велікакняжацкага дома эпітэту «белы» ў значэнні «вялікі», «высакародны».

Падзел Русі на Б.Р., *Чорную Русь* і *Чырвоную Русь* у агульнапрынятым цяпер выглядзе сфарміраваўся не раней за 2-ю пал. 17 ст. і не можа лічыцца спадчынай уласна славянскіх уяўленняў. «Чорная Русь» ніколі не была аўтэнтычнай назвай Верхняга Панямоння, як і «Б.Р.» — Падзвіння і Падняпроўя. З усіх трох «каляровых» тэрмінаў першай з'явілася менавіта назва «Белая Русь». Тэрміны «Чырвоная Русь» і «Чорная Русь» узніклі амаль адначасова і працяглы час канкуравалі за права абазначаць адны і тыя ж тэрыторыі.

Самы стары помнік усх.-слав. паходжання, у якім упамінаецца Б.Р. — «Слово избранное от святых писаний еже на латыню», створанае, верагодна, сербам Пахоміем Лагафетам у Ноўгарадзе каля 1461. У ВКЛ тэрмін «Б.Р.» вядомы з канца 15 ст. і ў большасці выпадкаў адносіўся да Маскоўскай дзяржавы (напр., на *Віда—Ляцкага карце* 1542), радзей — Ноўгарада. Да часткі тэрыторыі сучаснай Беларусі, перш за ўсё да Полаччыны, назву «Б.Р.» пачалі трывала дастасоўваць у сярэдзіне 16 ст. («Гісторыя палякаў» М.*Кромера*, 1555). Чарговае пераасэнсаванне назвы, магчыма, было абумоўленае абставінамі Інфлянцкай вайны 1558—82, калі тэрмін «Б.Р.» ужываўся як агульная назва земляў (у першую чаргу Полацка), вяртання якіх Рэчы Паспалітай патрабавала польска-літоўскае грамадства. Да таго ж аўтары павярхоўных гіст.—геагр. кампіляцый, што складаліся ў Зах. Еўропе, часта змешвалі звесткі аб заваяванні Ноўгарада Іванам III і захопе Полацка Іванам IV у 1563. У значэнні «Русь Літоўская» тэрмін «Б.Р.» спачатку ўжывалі або іншаземцы (Кромер, А.*Гваньіні*) або ўраджэнцы ВКЛ — прадстаўнікі адукаваных пластоў грамадства зах. арыентацыі, у т.л. С.*Рысінскі*, які ўпершыню свядома ўжыў тэрмін «leucorussus» (грэч.-лац. «беларус») як этнічную саманазву (1586). У канцы 16—пач. 17 ст. назва «Б.Р.» трапіла з твораў польскіх гісторыкаў і публіцыстаў у хронікі ВКЛ (М.*Стрыйкоўскага, «Хроніку Літоўскую і Жамойцкую»* і інш.).

Пашырэнне выкарыстання назвы «Б.Р.» у афіцыйных колах Маскоўскай дзяржавы і ў правасл. актывістаў Рэчы Паспалітай пачалося амаль адначасова, з 1620-х г. Назва «Б.Р.» адразу набыла выразную ідэалагічную афарбоўку: яе асн. зместам на стагоддзі зрабілася ідэя аб'яднання (а пазней — захавання) усіх «рускіх» земляў пад уладай Масквы. У рас. афіцыйных дакументах 1640—50-х г. у склад Б.Р. ўкраінскія тэрыторыі ўключалі часцей, чым беларускія, а тэрмінам «белорусское письмо» абазначалі ўсю сукупнасць графічных і лексічных асаблівасцей, якія адрознівалі т.зв. «заходнярускую» пісьмовую мову ад рускай мовы Маскоўскай дзяржавы. Аднак назвы «Украіна» і «Малая Русь» хутка выцеснілі «Б.Р.» з ужытку ў гэтым значэнні. «Б.Р.» у значэнні «Расійская дзяржава» сустракаецца на некаторых еўрапейскіх картах нават у 18 ст., але ўсё радзей. З сярэдзіны 17—пач. 18 ст. геагр. прывязка назвы стабілізавалася: яна канчаткова замацавалася за часткай земляў ВКЛ, якія здаўна называліся «Русь» (у вузкім сэнсе), у адрозненне ад уласна «Літвы», што стабільна фіксуецца еўрапейскай картаграфіяй (карты Г. дэ *Баплана* і інш.). І.Марзалюк вызначае тэрмін «беларусец» 17 ст. як «канфесіёнім і зямляцкі этнікон, вытворны ад тапоніма Белая Русь», адмаўляючы этнічнае напаўненне гэтага тэрміна нават ва ўсх. Беларусі. У Рас. імперыі пад Б.Р разумелі частку этнічных бел. тэрыторый, далучаных пры 1-м і 2-м падзелах Рэчы Паспалітай, а таксама Смаленшчыну; Віленская, Ковенская і Гродзенская губерні лічыліся літоўскімі. Назва «Б.Р.» выкарыстоўвалася як у афіцыёзным кантэксце, як неад'емная частка «трыадзінай Русі», так і патрыятычнымі дзеячамі з мясц. шляхты (А.Рыпінскі, Я.Баршчэўскі і інш.) як назва асобнага краю, што належыць да паліт. прасторы Рэчы Паспалітай і разам з ёй да зах.-еўрапейскай цывілізацыі.

Такі стан рэчаў у асноўным захаваўся да пач. 1890-х г., калі дзеячамі бел. нац. руху і дэмакр. коламі рас. навукі (Ф. Багушэвіч, энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона) «Б.Р.» пачала выкарыстоўвацца як назва ўсёй краіны, якая з цягам часу стане незалежнай Рэспублікай Беларусь (асобныя выпадкі дастасоўвання назвы і да заходняй, і да ўсх. Беларусі прасочваюцца з канца 18 ст.).

Пачынаючы з сярэдзіны 16 ст. (С.*Герберштэйн*) рабіліся шматлікія спробы растлумачыць этымалогію назвы «Б.Р.». У БССР з 1960-х г. былі найбольш пашыраны версіі пра паходжанне назвы ад белага колеру адзення ці антрапалагічнага тыпу насельніцтва або ад часовай незалежнасці (якая быццам бы апісвалася эпітэтам «белая») у 13 ст. часткі бел. земляў і ад ВКЛ, і ад татараў. Гісторыя назвы «Б.Р.» — яскравая ілюстрацыя эвалюцыі еўрапейскай геаграфіі ад чыста разумовага апісання розных, часта фантастычных, краін і народаў у сярэднявеччы, да дакладнай навукі ранняга Новага часу. Прынесеная ў Беларусь звонку, назва «Б.Р.» сведчыць пра лучнасць яе гіст. лёсу з лёсам еўрапейскай цывілізацыі.

*Літ.*: Замысловский Е.Е. Герберштейн и его историко-географические известия о России. СПб., 1884; Wit-


Герб **Белага**.

kowska M.H.S. Vita sanctae Kyngae ducissae Cracoviensis // Roczniki humanistyczne. 1961. Z. 2; Ostrowski W. About the origin of the name «White Russia». London, 1975; Colker M.L. America rediscovered in the thirteenth century? // Speculum. 1979. № 4; Порецкий Я.И. Соломон Рысинский. Solomo Pantherus Leucorussus. Мн., 1983; Савельева Е.А. Новгород и Новгородская земля в западноевропейской картографии XV—XVI вв. // География России XV—XVIII вв.: (по сведениям иностранцев). Л., 1984; Alexandrowicz S. Rozwój kartografii Wielkiego Księstwa Litewskiego od XV do połowy XVIII wieku. 2 wyd. Poznań, 1989; Імя тваё «Белая Русь». Мн., 1991; Насевіч В., Спірыдонаў М. «Русь» у складзе Вялікага княства Літоўскага // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1996. Вып. 1; Мыльников А.С. Картина славянского мира: взгляд из Восточной Европы. Представления об этнической номинации и этничности XVI—начала XVIII в. СПб., 1999; Белы А. Хроніка «Белай Русі»: Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы. Мн, 2000; Марзалюк І.А. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыякультурныя стэрэатыпы (X—XVII ст.). Магілёў, 2003; Łatyszonek O. From White Russia to Belarus?// Annus Albaruthenicus. 2004. Krynki, 2004.

*Алесь Белы.*

**Белы** Алесь (Аляксандр Валерыянавіч; н. 17.2.1968, Мінск), беларускі гісторык. Скончыў Бел. політэхн. ін-т (1989), Кінгстанскую школу бізнесу ў Вялікабрытаніі (1996). Даследуе гісторыю картаграфіі, іканаграфію ВКЛ сярэдневякоўя і новага часу, гісторыю дыпламатыі і замежных сувязей ВКЛ, уплыў зах.-еўрап. культурных, тэхнал. і эканам. рэалій на фарміраванне матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі. У кн. «Хроніка «Белай Русі»: Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы» (2000) дэталёва рэканструяваў эвалюцыю зместу назвы «Белая Русь» у сістэмах геагр. ведаў розных народаў і эпох на падставе зах.-еўрап. тэкставых і картаграфічных крыніц 6—18 ст.

*Тв.*: The battle of the Kozmynskyi Forest: Diplomatic background // The ukrainian review. 1995. № 1; Тэрыторыя сучаснай Беларусі на карце Ідрысі (1154 г.) // Бел. гіст. агляд. 1998. Сш. 2; Навіны жахлівыя і радасныя. Інфлянцкая вайна на Полаччыне ў выявах сучасных нямецкіх газет (лятучых лісткоў) XVI ст. // Спадчына. 1997. № 6; «Літоўская кунсткамера» // Там жа. 1998. № 2; Беларусь на Эбсторфскай карце XIII ст. // Там жа. 1999. № 2; Невядомыя эпізоды «невядомай вайны». Ваенныя дзеянні Швецыі супраць ВКЛ у 1656—1657 гг. вачыма Эрыка Дальберга // Там жа. 1999 . № 3; In laudem cerevisae: (На хвалу піва) // Там жа. 2000. № 1; «Дай мне булку на паўзлоты, ды прыпраў мне селядца...» // Там жа. 2002. № 4.

**Белы** (рус. Белый, цяпер горад, цэнтр раёна ў Цвярской вобл., Расія), горад, цэнтр *Бельскага княства*, у 17 ст. ў Смаленскім ваяв. На р. Обша. У 2-й пал. 14 ст. уваходзіў у склад ВКЛ. У пач. 15 ст. Б. — цэнтр удзельнага княства, належаў кн. Івану Уладзіміравічу (заснавальнік роду *Бельскіх*), потым яго сынам Фёдару і Сямёну. У 1500 С.І.Бельскі перайшоў на службу да вял. князя маскоўскага Івана III і перадаў яму Бельскае княства. Пасля *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* Б. застаўся ў Маскоўскай дзяржаве. Пасля смерці Сямёна Іванавіча Б. належаў вял. князям маскоўскім. У *вайну Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* вернуты ў склад ВКЛ. У 1613 і 1632 на кароткі тэрмін захоплены рас. войскамі. 2.5.1625 горад атрымаў магдэбургскае права і герб: у сярэбраным полі постаць Дзевы Марыі з дзіцем на левай руцэ. Паводле ўмоў *Андросаўскага перамір'я 1667* Б. ў складзе Расіі.

*Валерый Грынявецкі.*

**Бельск** (польск. Бельск-Падляскі, Bielsk Podlaski, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Падляшскім ваяв., на р. Белая. Упершыню ўпамінаецца пад 1252, калі ўваходзіў у склад Галіцка-Валынскага княства, меў замак. У 1-й пал. 14 ст. перайшоў пад уладу вял. князя ВКЛ Гедзіміна. У 1377 замак безвынікова штурмавалі крыжакі. 2.9.1391 польскі кароль Ягайла перадаў Дарагічынскую зямлю з гарадамі Дарагічын, Мельнік, Сараж і Б. мазавецкаму кн.


Герб **Бельска**.

Янушу I, які надаў Б. хелмскае права. У пач. 15 ст. вял. князь ВКЛ Вітаўт адабраў Дарагічынскую зямлю. У 1430 Б. атрымаў прывілеі ад Вітаўта, які пабудаваў тут касцёл Дзевы Марыі. Да 2-й пал. 15 ст. Б. у складзе *Дарагічынскага павета*, потым цэнтр *Бельскага павета*. 18.11.1495 Б. атрымаў ад вял. князя ВКЛ Аляксандра магдэбургскае права. У 1501 пацверджаны правы на самакіраванне і нададзены герб: у сярэбраным полі на зялёнай зямлі выява чырвонага зубра з залатымі рагамі. У 1507 вял. князь ВКЛ Жыгімонт Стары аддаў Б. Алене Іванаўне, удаве вял. князя ВКЛ Аляксандра. У 16 ст. ў Б. былі цэрквы Богаяўленская, Раства Багародзіцы, Св. Тройцы, Васкрасенская, манастыр св. Мікалая; пры касцёле св. Марціна існаваў шпіталь для бедных (да 1726). 1.7.1564 у Б. на сойме ВКЛ абвешчаны *Бельскі прывілей 1564* і зацверджаны *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1570 вял. пажар знішчыў замак. У 1636 каралеўскія камісары прызналі уніяцкімі цэрквы Св. Тройцы і Раства Багародзіцы, а св. Міхаіла і Васкрасенская, а таксама манастыр св. Мікалая засталіся праваслаўнымі. У 1641 Адам і Альжбета Казаноўскія пабудавалі касцёл св. Міхала для кляштара кармелітаў абутых. Горад моцна пацярпеў у *Паўночную вайну 1655—60*. У 1710 спустошаны эпідэміяй. У 1783 Я.К.Браніцкі пабудаваў у Б. касцёл. У 18 ст. пабудавана мураваная ратуша. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Літ.*: Herbst S. Bielsk Podlaski // Prace Instytutu urbanistyki i architektury. 1957. Z. 2/17; Kosieradzki H. Bielsk Podlaski i okolice. Białystok, 1979; Яго ж. Bielsk Podlaski: Dzieje miasta. Bielsk Podlaski, 1987; Zieleniewski J. Powstanie i

rozwój układu przestrzennego Bielska Podlaskiego w XIV—XVIII wieku // Studia podlaskie. Białystok, 1990. T. 1; Яго ж. Średniowieczny zespół osadniczo-obronny w Bielsku Podlaskim: Siedziba namiestników bielskich w panoramie miasta z pierwszej połowy XVI wieku // Europa Orientalis: Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza po współczesność. Toruń, 1996; Bielsk Podlaski: Studia i materiały do dziejów miasta. Bielsk Podlaski, 1999.

***Валерый Грынявецкі.***

**Бельскае княства**, феадальная дзяржава ва Усх. Еўропе. У 1-й пал. 14 ст. ўваходзіла ў склад *Смаленскага вялікага княства*. Цэнтр — г. *Белы*. У 1359 «смальняне ваявалі Белую». Відаць, у гэты час Б.к. ўжо было ў складзе ВКЛ. У пач 15 ст. вял. князь ВКЛ Вітаўт аддаў Б.к. ва ўладанне сыну кн. Уладзіміра Альгердавіча — Івану (заснавальнік роду *Бельскіх*). У склад княства ўваходзілі землі ўздоўж вярхоўяў р. Мяжа і яе левых прытокаў Бяроза, Лучоса і Обша, а таксама вярхоўі Дняпра. Шэраг валасцей (Старцава, Рожна і Бібірава) знаходзіліся ў сумесным уладанні Б.к. і Таропецкага пав. Б.к., таксама як *Вяземскае княства* і *Вярхоўскія княствы*, стала своеасаблівым буферам паміж асн. тэрыторыяй ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Адміністрацыйна Б.к. па-ранейшаму было падпарадкавана Смаленску, які быў цэнтрам асобай ваен. акругі, створанай для супрацьстаяння Маскве. Пасля *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* Б.к. засталося ў Маскоўскай дзяржаве.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892; Яго ж. Образование основной государственной территории великорусской народности: (заселение и объединение центра). Л., 1929; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV—XVI вв. М.; Л., 1950; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XVI—первой трети XVI в. М., 1995; Pietkiewicz K. Wielkie Księstwo Litewskie pod rządami Aleksandra Jagiellonczyka: Studia nad dziejami państwa i społeczeństwa na przełomie XV i XVI wieku. Poznań, 1995; Памятники истории Восточной Европы: Источники XV—XVII вв. Т. 2. М.; Варшава, 1997; Янин В.Л. Новгород и Литва: пограничные ситуации XIII—XV веков. М., 1998; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. 2 изд. М., 2001.

***Віктар Цемушаў.***

**Бельскі** (Bielski) Марцін (1495, в.Бяла каля г.Серадз, Польшча—18.12.1575), польскі гісторык-храніст, паэт. Продкі насілі прозвішча Вольскія, як часта называў сябе і Б. Бацька *Я.Бельскага*. Магчыма, вучыўся ў Кракаўскім ун-це (у спісах студэнтаў за 1509 фігуруе нейкі «Martinus Nicolai de Volija Szalejska»), але сваёй эрудыцыяй, хутчэй за ўсё, абавязаны настойлівай самаадукацыі. Маладыя гады правёў у «рускіх землях» пры двары вядомага магната, перамышльскага старасты П.Кміты (відаць, выконваў абавязкі сакратара) у асяроддзі выдатных дзеячаў Адраджэння: Марціна з Апочна,



М.**Бельскі**. Дрэварыт. 1564.

К.Яніцкага, М.Кравіцкага, Я.Пшылускага, С.Ажахоўскага. Вядома, што ў маладосці ваяваў з татарамі і валахамі, удзельнічаў у бітвах пад Мохачам (1526) і Абертынам (1531). Першы вядомы твор «Жыццяпісы філосафаў» («Żywoty filozofów, to jest mędrców nauk przyrodzonych», Кракаў, 1535) уяўляе сабой пераклад з чэшскай на польск. мову славутага ў сярэдневяковї твора Г.Бурлея. У гэты час Б. жыў у Кракаве, быў звязаны з дзеячамі гуманізму і рэфармацыі, у т.л. з *Б.Ваяводкам*, М.Рэем, *А.Фрычам-Маджэўскім* і інш. (у іх асяродку Б. называлі «сармацкім Карыёнам»). Каля 1540 пакінуў Кракаў і пасяліўся ў роднай вёсцы. Тут яго творчасць дасягнула росквіту. У 1551 у Кракаве выйшла *«Хроніка ўсяго свету»* («Kronika wszytkiego świata», 2 выд. 1554, 3 выд. 1564). Да самай смерці працаваў над 4-м выд. «Хронікі» [выд. ў 1597 сынам Я.Бельскім пад назвай «Польская хроніка...» («Kronikę polską Marcina Bielskiego, nowo przez Joachima Bielskiego, syna jego, wydana»), які падрыхтаваў яе да друку і дапоўніў падзеямі апошніх гадоў]. Гэты твор — апісанне гісторыі свету ад стварэння да сучаснасці Б., вял. кампіляцыя (у 3-м выданні 483 аркушы). 1-е выданне пачынаецца з касмаграфіі — геагр. апісання земляў. Б. пісаў: «Руская краіна дваякая: вялікая і малая. Вялікая Русь — уся Масква, аж да Вялікага мора Акіяна Татарскага (іншыя пішуць Ледавітага). Малая Русь — тыя ўсе, якія пад Польскім каралеўствам у Сарматыі Рускія землі... Літоўская зямля таксама ёсць Русь, бо Літва да іх прыйшла з марскіх берагоў...». У раздзеле «Аб Літве» не паўтарае легенды аб рымскім паходжанні літ. знаці. 2-е выд. «Хронікі...» было значна папраўлена і дапоўнена, складалася з 4 кніг. Самае вядомае і папулярнае 3-е выд. складалася з 10 кніг. 9-я кніга наз. «Аб маскоўскім альбо рускім народзе. Аб пасольстве Васіля да папы рымскага. Аб Літве. Аб Ліўлянцкай зямлі. Аб Татарах» і была напісана пераважна на падставе «Запісак аб Масковіі» С.*Герберштэйна* і «Трактата пра дзве Сарматыі» *Мацея з Мехава*. «Хроніка» Б. карысталася вял. папулярнасцю ва Усх. Еўропе, неаднаразова перакладалася на старабел. і рус. мовы (1565—68, 1584, 1670) і перапісвалася нават у аддаленых кутках Расіі. Б. — аўтар «Камедыі Юстына і Канстанцыі» («Komedia Justyna i Konstancjej», Кракаў, 1557), якая з'яўляецца паэт. аўтабіяграфіяй аўтара, і «Рыцарскай справы» («Sprawa rycerska», Кракаў, 1569) — працы пра гісторыю і тэорыю вайсковай справы.

*Літ.*: Chrzanowski I. Marcin Bielski: Studium historyczno-literackie. 2 wyd. Lwów; Warszawa, 1926; Семянчук А.А. Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гродна, 2000. С. 80—91.

***Альбіна Семянчук.***

**Бельскі** (Bielski) Яўхім (каля 1550, в.Бяла каля г.Серадз, Польшча—8.1.1599), польскі гісторык-храніст, паэт. Сын М.*Бельскага*. Вучыўся ў парафіяльнай школе ў Кужалёве, пратэстанцкай акад. гімназіі ў Бжэгу. Пасля пераехаў у Кракаў, дзе зблізіўся з каронным падканцлерам П.Дуніным-Вольскім, якога называў мецэнатам. У 1576 надрукаваў першы твор на шлюб Стафана Баторыя з Ганнай Ягелонкай. З гэтага моманту пачаў публічную кар'еру, удзельнічаў у канфлікце з Гданьскам, у 1578 абраны дэпутатам суда найвышэйшай інстанцыі Серадзскага ваяв. У 1579 як пісар каралеўскай канцылярыі ўдзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, у штурме



Полацка, пісаў «бачыў пусты касцёл св. Сафіі ў той час, калі кароль Стафан Полацк узяў». У 1580 асеў на вёсцы, займаўся гасп. і фін. справамі (сваімі і сёстраў), упарадкоўваў творчую спадчыну бацькі. У час 3-га бескаралеўя Б., які выступаў на баку Жыгімонта III, страціў сваю вёску, што была падпалена прыхільнікамі Максіміляна Габсбурга, і пераехаў у Асвенцімскае ваяв. Часта бываў у Кракаве, дзе зноў пачаў займацца палітыкай і літаратурай, наблізіўся да каралеўскага двара. У 1588 атрымаў пасаду каралеўскага сакратара. У гэтым жа годзе з'явіўся яго паэт. зборнік «Песні» («Carminum liber I»), які змяшчаў 16 одаў (3 прысвечаны Жыгімонту III, 2 — канцлеру Я.Замойскаму, астатнія — выдатным вяльможам). Зборнік напісаны пад моцным уплывам Гарацыя, мае выразны патрыят. пафас, змяшчае пахвалу Замойскаму, асуджэнне грамадз. вайны. Напісаў таксама 2 творы на смерць Стафана Баторыя. У барацьбе Замойскага з каралём выступіў на баку караля. Напісаў лац. верш на шлюб Жыгімонта III з Ганнай Ракушанкай (1592) і польскі ў гонар нараджэння каралевіча Уладзіслава IV (1595). У той жа час Б. працаваў над «Польскай хронікай», якую давёў да смерці Стафана Баторыя і выдаў у 1597 пад імем бацькі. Яна выклікала незадавальненне шляхты і каралеўскі эдыкт, які забараняў продаж твора без рэвізіі і выпраўлення каралеўскіх карэктараў. Аднак Б. памёр, не дачакаўшыся рэвізіі. «Польская хроніка» была сумесным творам бацькі і сына. Апошні не толькі дапісаў гісторыю ад 1575 да 1586, але і змяніў стыль апавядання, змясціў у тэкст, які напісаў бацька, некат. сучасныя яму падзеі, а таксама пазбавіў тэкст бацькі рэфармац. ідэй. Крыніцай «Польскай хронікі» былі творы М.*Кромера*, Б.*Вапоўскага*, Ё.*Дэцыя*, С.Ажахоўскага, Я.Д.Салікоўскага, Я.*Ласіцкага*, Р.*Гейдэнштэйна* і інш. Яе часта называюць «шляхецкай гісторыяй», таму што Б. часта звяртаўся да гербаў і радаводаў шляхецкіх сем'яў. ВКЛ Б. разглядаў як адну з правінцый Рэчы Паспалітай. Усе бел. землі называў літоўскімі, «Русь жа мае тыя свае ваяводствы: Рускае, Белзскае, Падольскае, Брацлаўскае». «Польская хроніка» падзяляецца на 2 няроўныя часткі: ад старажытнасці да 1553, ад 1553 да 1586. Найб. арыгінальная 2-я частка, аднак і для яе напісання Б. карыстаўся пераважна хронікамі Гейдэнштэйна і Салікоўскага.

*Літ.:* Nehring W. O życiu i pismach Joachima Bielskiego. Poznań, 1860; Семянчук А.А. Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі. Гродна, 2000. С. 80—91.

***Альбіна Семянчук.***

**Бельскі павет**, Бельская зямля, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ і Польскім каралеўстве ў складзе *Падляшскага ваяводства*. У 12—13 ст. землі павета ўваходзілі ў склад *Галіцка-Валынскага княства*, у пач. 14 ст., пры вял. князю ВКЛ Гедзіміне, увайшлі ў склад ВКЛ. Б.п. вылучыўся ў 2-й пал. 15 ст. са складу *Дарагічынскага павета*. Ахопліваў землі ў вярхоўях рэк Нараў і Бебжа з гарадамі Бельск, Бранск, Сараж, Нараў, Высокае, Тыкоцін, Кнышын, Ганязь, Райгорад, Аўгустаў. У 1501 вял. князь ВКЛ Аляксандр выдаў Б.п. прывілей, якім даў мясц. шляхце польскае права на самакіраванне (з абмежаваннямі), у т.л. права абіраць земскі і гродскі суды. Першапачаткова цэнтр павета, месца збору сойміка і судоў — Бельск, аднак хутка яны былі пераведзены ў Бранск. З 1513 Б.п. у складзе Падляшска-Берасцейскага (Падляшскага) ваяв. У павеце дамінавала буйное шляхецкае і дзярж. землеўладанне. Дзярж. Бельскае староства знаходзілася ў трыманні ў прадстаўнікоў буйнейшых магнацкіх родаў, у 1506—13 — у вял. княгіні Алены Іванаўны, пасля — у А.Гаштольда, у якога ў 1533 староства выкупіла вял. княгіня Бона (грошы сабрала дробная бельская шляхта, незадаволеная свавольствам Гаштольда). У 1547 бельскай шляхце прадастаўлена поўнае польскае права. Пры заключэнні Люблінскай уніі 1569 Б.п. увайшоў у склад Польскага каралеўства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бельскі прывілей 1564**. Абвешчаны вял. князем ВКЛ Жыгімонтам Аўгустам 1.7.1564 на сойме ў г. *Бельск* Падляшскага ваяв. Адзін з юрыд. актаў, што ўдасканальвалі прававыя нормы *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529*. Апублікаваны ў час падрыхтоўкі *Статута Вялікага княства Літоўскага 1566* пасля настойлівых просьбаў шляхты, якая намагалася пашырыць свае саслоўныя і паліт. правы. Меў на мэце ўтварэнне выбарных шляхецкіх саслоўных судоў, аддзяленне на месцах суд. органаў ад велікакняжацкай адміністрацыі. Абвяшчаў роўнасць шляхты перад судом і законам. Вял. князь гарантаваў неўмяшанне адміністрацыі (ваявод і старастаў) у судовыя справы шляхты і абяцаў у хуткім часе выдаць на сойме новы статут, у якім прадугледжвалася ўтварэнне судоў, што выбіраліся шляхтай. Асобна агаворвалася, што правы царквы і духоўных судоў (каталіцкіх і праваслаўных) захоўваюць сваю сілу на падставе даўніх прывілеяў, якія мелі каталіцкія біскупы і правасл. уладыкі. У складанай паліт. сітуацыі ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82* на абмежаванне сваёй улады і прэрагатыў у судовых адносінах пайшлі не толькі вял. князь, але і паны-рада і старасты (пераважна магнаты). Яны былі вымушаны адмовіцца ад сваіх судовых правоў і даходаў дзеля кансалідацыі саслоўя феадалаў. Усе палажэнні Б.п. былі ўзяты з праекта новага статута. Аднак у Статуце ВКЛ 1566 яны сфармуляваны больш поўна і дакладна. Дапаможны, службовы характар Б.п. выявіўся ў тым, што ў Статуце 1566 ён змешчаны як уводны закон і склаў з ім адзіны прававы акт.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Бельскія**, княжацкі род, галіна *Гедзімінавічаў*. Паходзілі ад кн. *Уладзіміра Альгердавіча*, які меў сыноў Аляксандра — родапачынальніка *Алелькавічаў*, Івана — родапачынальніка Б., і *Андрэя Уладзіміравіча*. Прозвішча Б. паходзіць ад г. *Белы* на р. Обша, якім валодаў Іван Уладзіміравіч (час падаравання яму горада невядомы). Род згас у 1612 у Расіі. Найб. вядомыя:

Іван Уладзіміравіч (?— пасля 4.2.1448), сын Уладзіміра Альгердавіча. У час *феадальнай вайны 1432—39* падтрымліваў Жыгімонта Кейстутавіча, але, калі Свідрыгайла ўзяў у заложнікі яго жонку, быў вымушаны перайсці на яго бок. У *Вількамірскай бітве 1435* трапіў у палон да Жыгімонта. У 1444—45 служылы князь у Вял. Ноўгарадзе. 4.2.1448 яго войска напала на г. Ржэва, дзе знаходзіўся вял. князь цвярскі Барыс Аляксандравіч, і з дапамогай мясц. жыхароў захапіла горад, аднак Барыс здолеў уцячы. Хутка горад быў вернуты Цвярскому княству. У шлюбе з Васілісай (Васай), дачкой кн. А.Гальшанскага і сястрой *Соф'і Гальшанскай* (жонкі Ягайлы), меў сыноў Івана, Януша, Фёдара і Сямёна, дачок Ганну (жонка цешынскага кн. Баляслава), Агнешку (жонка І.Хадкевіча) і яшчэ дзвюх (жонкі кн. І.В.Астрожскага і кн. Дз.Ф.Адзінцэвіча).



Фёдар Іванавіч (?—пасля 1506), сын Івана Уладзіміравіча. У 1476 разам з інш. князямі і панамі ВКЛ падпісаў ліст кіеўскага мітрапаліта Місаіла да рымскага папы Сікста IV з прапановамі аб устанаўленні царк. уніі. Быў у апазіцыі да вял. кн. ВКЛ Казіміра. Удзельнічаў у *змове 1481*, на другі дзень пасля шлюбу з Ганнай, дачкой кн. С.Р.Кобрынскага, быў вымушаны ратавацца ўцёкамі ў Маскоўскай дзяржаве. Маёнткі Фёдара ў ВКЛ адышлі да вял. князя, а пасля былі падараваны яго брату Сямёну. У Расіі Фёдар атрымаў прыгранічныя воласці Дземан і Марэва, пасля — гарады Лух, Вічуга, Кінешма, Чыхачоў. У 1485 удзельнічаў у паходзе вял. князя маскоўскага на Цвер. Яго спробы выклікаць жонку ў Расію вынікаў не далі. У 1492 абвінавачаны ў спробе вярнуцца ў ВКЛ і сасланы ў Галіч. У 1497 памілаваны, у 1498 ажаніўся з разанскай князёўнай Ганнай Васілеўнай, пляменніцай вял. кн. Івана III Васілевіча. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* у 1502 удзельнічаў у беспаспяховай аблозе Смаленска. Удзельнік паходаў на Казань 1499 і 1506.

Сямён Іванавіч (?—паміж 1507 і 1522), сын Івана Уладзіміравіча. Уваходзіў у склад Рады ВКЛ пры вял. князях Казіміру і Аляксандру. Валодаў гарадамі Белы, Смаляны, Рослаў і інш. Незадаволены сваім становішчам у ВКЛ, у 1499 перайшоў разам з г. Белы на бок вял. князя маскоўскага Васіля III, што стала адной з прычын вайны Масквы з ВКЛ 1500—03, у якой Сямён удзельнічаў у 1501—03. У шлюбе з Ірынай, дачкой кн. І.Ю.Патрыкеева (з Нарымунтавічаў) дзяцей не меў.

Сямён Фёдаравіч (?—пасля 1541), сын Фёдара Іванавіча. Баярын з 1521—22. У час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* у жн. 1534 разам з І.В.Ляцкім уцёк у ВКЛ. Атрымаў ад вял. кн. ВКЛ Жыгімонта Аўгуста маёнткі Жыжморы, Стаклішкі і Кармялаў. Заклікаў вял. князя да актыўных баявых дзеянняў, разлічваючы атрымаць вял. ўладанні ў Расіі. У 1535 удзельнічаў ва ўзяцці Гомеля і Старадуба. Незадаволены набыткамі, выказваўся супраць вял. князя ВКЛ, за што быў на кароткі час зняволены. Адпрасіўся ў паломніцтва ў Святую Зямлю, у 1537 выехаў у Турцыю, пасля ў Крым, адкуль падбіваў Жыгімонта Аўгуста на вайну супраць Расіі, каб захапіць сабе гарады Белы і Разань. У 1539 прыехаў у ВКЛ, з 1540 зноў у Крыме, дзе ўдзельнічаў у заключэнні саюза ВКЛ і Крымскага ханства супраць Масквы. Быў прыхільнікам крымцаў у час паходу 1541 на Маскву, але войска ВКЛ татараў не падтрымала. Далейшы лёс невядомы.

Дзмітрый Фёдаравіч (1499—11.1.1551), сын Фёдара Іванавіча. У 1519 удзельнічаў ва ўзвядзенні на трон казанскага хана Шах-Алі. У 1526 шафер на вяселлі вял. кн. Васіля III з А.Глінскай. Не пазней за 1528 атрымаў тытул баярына. Прызначаны Васілём III рэгентам пры малалетнім Іване IV. У 1520—40-х г. удзельнічаў у баях з крымскімі і казанскімі татарамі.

Іван Фёдаравіч (?—май 1542), сын Фёдара Іванавіча. У 1524 і 1530 ваяваў супраць казанскіх татараў. З 1534 баярын. З ліп. 1540 узначальваў баярскае праўленне, пры малалетнім Іване IV да студз. 1542 быў яго «першарадцам». Забіты паводле загаду Шуйскіх на Белавозеры.

Іван Дзмітрыевіч (?—24.5.1571), сын Дзмітрыя Фёдаравіча. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* удзельнічаў у 1562—63 у захопе Полацка. З 1560 баярын. З 1565 адзін з кіраўнікоў Баярскай думы ў Земшчыне. Удзельнік Земскага сабора 1566. Загінуў пры набегу крымскіх татараў на Маскву.

Георгій Іванавіч (?—4.10.1612), сын Івана Іванавіча, унук Івана Фёдаравіча. Прыняў манаства з імем Галакціён. Забіты ў скіце пад Волагдай жаўнерамі Рэчы Паспалітай. Апошні прадстаўнік роду Б.

Акрамя Б.-Гедзімінавічаў, у Расіі існаваў род князёў Б.-Рурыкавічаў, а ў Рэчы Паспалітай — некалькі шляхецкіх родаў Б.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV—первой трети XVI в. М., 1988.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бельск-Падляскі** (Bielsk Podlaski), горад на ПнУ Рэспублікі Польшча, гл. *Бельск*.

**бенедыкцінцы**, манахі каталіцкага манаскага ордэна св. Бенядзікта (лац. Ordo Sancti Benedicti, OSB). Засн. ў 530 Бенядзіктам Нурсійскім (ён быў і аўтарам статута) на гары Монтэкасіна (Італія). Мэта ордэна (харызмат) — кантэмпляцыя (прывядзенне псіхікі ў стан глыбокай засяроджанасці), фізічная і разумовая праца, выхаванне моладзі. Адным з абавязкаў Б. было правядзенне ўрачыстай літургіі. У 9—10 ст. кляштары Б. мелі аўтаномію, карысталіся шматлікімі прывілеямі, сабралі значныя багацці. Гэта прывяло да адыходу ад статута ордэна. Дзеля вяртання да першапачатковых ідэалаў была праведзена Клюнійская рэформа (10—11 ст.), у выніку якой утварыліся новыя кангрэгацыі (ордэны): *картэзіянцаў, цыстэрцыянцаў, камедулаў*, трапістаў і інш. Б. адыгралі вял. ролю ў развіцці каталіцкай тэалогіі, умацаванні каталіцкай царквы і папства. Шматлікія кляштары Б. мелі свае школы, буйныя б-кі з рэдкімі зборамі, скрыпторыі, дзе перапісваліся кнігі і летапісы. У 10—13 ст. Б. ўдзельнічалі ў місіянерскай дзейнасці на славянскіх землях і ў Прыбалтыцы. У Польшчу Б. прыйшлі ў канцы 10 ст. У 11—12 ст. тут было заснавана 6 абацтваў. У 14 ст. з'явіліся 2 кляштары царкоўнаславянскага абраду: каля 1385 у Алясніцы і каля 1390 у Кракаве, куды перайшлі Б. з кляштара Эмаўс у Празе (Кракаўскі кляштар дзейнічаў да 1470—80-х г.). Першы кляштар у ВКЛ заснавалі каля 1403 у Старых Троках Б. з польскага кляштара Тынец; існаваў да 1844. Б. мелі кляштары ў Гарадзішчы каля Пінска (1659—1864, фундатар Я.К.Копаць, ваявода полацкі), каля Нясвіжа (1673—1864, фундатар М.К.Радзівіл, польны гетман і падканцлер ВКЛ), у Менску (1700—1832, фундатар жонка менскага харужага Статкевіча), Пашалтуні ў Жамойці (з 1755, фундатары А.Ясінскі і А.Шымкевіч) і інш. У 1709 утворана Польская кангрэгацыя Св. Крыжа, якая ахапіла бенедыкцінскія кляштары Рэчы Паспалітай. Яны, аднак, захавалі значную аўтаномію (Б. ўвогуле не мелі цэнтралізаванай адміністрацыі). На чале кангрэгацыі стаяў прэзідэнт, якога на 3 гады выбірала генеральная капітула. У 1893 папа Леў XIII засн. федэрацыю Б., якая пацверджана статутам папы Пія XII у 1952. Гэты ж папа ў 1947 прысвоіў Бенядзікту Нурсійскаму тытул «бацька Еўропы», а папа Павел VI у 1964 абвясціў яго «патронам Еўропы». У 1980 папа Іаан Павел II даў яму «сапатронаў» — святых Кірылу і Мяфодзія.

Існавала жаночая галіна ордэна. Кляштары бенедыкцінак існавалі ў

Нясвіжы (1591—1872, фундатар М.К.Радзівіл Сіротка), Вільні (з 1618, фундатар Я.К.Хадкевіч, вял. гетман ВКЛ і ваявода віленскі), Менску (1633—1871, фундатар В.Сялява, канонік віленскі і пробашч дзераўноўскі), Оршы (з 1640, каля 1682 злучаны з менскім кляштарам), Крожах (1639—1850, фундатар Х.Валадкевіч, падсудак земскі жамойцкі), Смаленску (з 1643), Слоніме (1648—1850, фундатар Г.Пшэцлаўская; манашкі прыйшлі сюды з закрытага смаленскага кляштара), Коўне (з 1650). Пры жаночых кляштарах існавалі школы для дзяўчат. У ВКЛ бенедыкцінкі мелі права прышываць да вэлюму крыж з ярка-чырвонага аксаміту як напамінак пра ахвяры ордэна ў час Паўн. вайны 1700—21.

*Літ.*: Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912; Zakony męskie w Polsce w 1772 roku. Lublin, 1972; Holzherr G. Reguła benedyktyńska w życiu chrześcijańskim. Tyniec, 1988; Szczaniecki P. Benedyktyni polscy: Zbiór szkiców i opowiadań. Tyniec, 1989; Benedyktyńska praca: Studia historyczne ofiarowane O. Pawłowi Szczanieckiemu w 80-rocznicę urodzin. Tyniec, 1997; Derwich M. Monastycyzm benedyktyński w średniowiecznej Europie i w Polsce: Wybrane zagadnienia. Wrocław, 1998; Kanior M. Kongregacja benedyktyńska Świętego Krzyża, 1709—1864. Kraków, 2000.

***Людміла Карнілава.***

**бенкарт** (ням. Bankart), назва пазашлюбнага дзіцяці ў ВКЛ. Законным лічыўся царк. шлюб, заключаны паводле норм кананічнага права. У ВКЛ такі шлюб канчаткова зацвердзіўся ў 2-й пал. 16 ст., аднак на практыцы доўгі час прызнаваліся шлюбы, заключаныя паводле норм звычаёвага права. Статуты ВКЛ вызначалі Б. як асобу, пазбаўленую сваіх саслоўных правоў, падкрэслівалі значэнне законнага шлюбу для інстытута права на спадчыну, патрабавалі выконваць царк. законы ў адносінах дзейнасці шлюбу. Статут ВКЛ 1588 адносіў да Б. дзяцей, народжаных «не з венчальную и нешлюбную жоною», дзяцей, якіх бацька не прызнаў сваімі ў непрацяглы час пасля іх нараджэння, а таксама народжаных у шлюбе, які паводле кананічнага права быў прызнаны несапраўдным, таму што былі ўзяты паміж асобамі, што былі ў забароненых ступенях роднасці і сваяцтва і ведалі пра гэта. Калі бацька меў законную жонку і пасля яе смерці ўзяў шлюб з маці Б., статус апошняга не мяняўся. Дзеці, народжаныя ў гэтым шлюбе, таксама лічыліся Б. Статуты ВКЛ не закраналі выпадкаў нараджэння дзяцей у жанчын, якія далі зарок цнатлівасці, аднак паводле царк. правіл такія дзеці таксама лічыліся Б. Яны не мелі права быць спадкаемцамі свайго бацькі, атрымаць у спадчыну шляхецкія правы, аднак маглі быць спадкаемцамі маці, што адпавядала норме рымскага права. Асобы, народжаныя ў шлюбе, што быў скасаваны ў сувязі з забароненымі ступенямі роднасці і сваяцтва, не маглі быць спадкаемцамі і маці. Аднак прызнавалася права маці Б. на галоўшчыну за забітага сына. Пры ўмове, калі бацька Б. возьме законны шлюб з яго маці, існаваў інстытут легітымацыі (узаконення) Б. на аснове кананічных правіл 1172 папы Аляксандра III. Такая легітымацыя была анулявана ў часы праўлення Стафана Баторыя (1576—86). Аднак на практыцы яна ажыццяўлялася шляхам *набілітацыі* пры абавязковай умове заключэння царк. шлюбу бацькамі Б.

*Літ.*: Дзербіна Г. Права і сям'я ў Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 1997.

***Галіна Дзербіна.***

**Беражкоў** (Бережков) Мікалай Георгіевіч [12(24).6.1886, Ніжні Ноўгарад — 12.3.1956], рускі гісторык. Д-р гіст. н. (1946). Вучань М.К.*Любаўскага.* Скончыў Маскоўскі ун-т (1911), дзе пасля выкладаў. Адначасова працаваў у Маскоўскім архіве Мін-ва юстыцыі. З 1917 выкладаў у Маскоўскім археал. ін-це, Ніжагародскім ун-це і інш. З 1924 працаваў у Музеі рэвалюцыі, з 1934 у музеі «Катарга і ссылка», у 1935—51 — у Ін-це гісторыі АН СССР. Вывучаў гісторыю і крыніцазнаўства ВКЛ, Метрыку ВКЛ, гісторыю Беларусі эпохі феадалізму, храналогію рус. летапісаў.

*Тв.*: Литовская Метрика как исторический источник. Ч. 1. О первоначальном составе книг Литовской Метрики до 1522 года. М.; Л., 1946; Белоруссия // Очерки истории СССР: Период феодализма. XVII в. М., 1955 (разам з А.І.Барановічам); Интинерарий великих князей литовских по материалам Литовской Метрики (1481—1530 гг.) // Археографический ежегодник за 1961 год. М., 1962; Хронология русского летописания. М., 1963.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Н.Г.Бережков // Проблемы источниковедения. М., 1958. Вып. 6; Шохин Л.И. Н.Г.Бережков как архивист // Советские архивы. 1990. № 1.

**Беразвецкі Петрапаўлаўскі манастыр.** Заснаваны як мужчынскі базыльянскі ў 1637 старастам і ваяводам мсціслаўскім І.Л.Корсакам. Пабудаваны ў 1643 на паўн. беразе воз. Вялікае каля в. Беразвечча (цяпер у межах г. Глыбокае Віцебскай вобл.) паводле фундацыі. Пры манастыры дзейнічала школа, у якой выкладаліся прыродазнаўчыя навукі і замежныя мовы (з 1773 пад апекай Адукацыйнай камісіі), а пасля 1748 — базыльянскі навіцыят. У 1756—64 на месцы старых драўляных будынкаў узведзены новы мураваны манастыр з царквой Пятра і Паўла — адзін з лепшых узораў віленскага барока. Аўтарам праекта царквы лічаць І.К.*Глаўбіца*, над дэкорам працаваў архітэктар і лепшчык Ян Табіяш Дыдрыштэн (Дыдрыхтэн). У канцы 18 ст. комплекс уключаў царкву з араторыумам (зімовая капліца, прыбудаваная ў 1776), жылыя і гасп. карпусы, школу і сад, абнесеныя мураванай агароджай з брамай. Царква — мураваная 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам. Тарцы цэнтр. нефа і трансепта завяршаліся фігурнымі франтонамі. Фасады насычаны багатай дэкаратыўнай пластыкай з элементамі ракако. Гал. фасад з 2 шмат'яруснымі вежамі быў аздоблены рустоўкай, пілястрамі, паўкалонамі, хвалістымі карнізамі, фігурнымі валютамі і праёмамі. Інтэр'ер вызначаўся прыгажосцю аздаблення. Існавалі 7 стукавых алтароў. Царква і жылы корпус былі размаляваны фрэскавым жывапісам. У 1847—74 тут існаваў правасл. мужчынскі манастыр, з 1901 — жаночы. У 1919—39 належаў католікам. У 1960-я г. царква разбурана.

*Літ.*: Березвеч и Красносток: Краткий очерк истории Березвечского женского монастыря Литовской епархии и Красностокской женской обители Гродненской епархии. СПб., 1901; Вераксин А. Березвечский монастырь Литовской епархии, Дзисненского уезда. Вильна, 1910; Bohdziewicz P. Kościół pobazyliański w Berezweczu // Biuletyn historii sztuki. 1983. № 3—4; Lorentz S. Architekt kościoła w Berezweczu: (w związku z artykułem Piotra Bohdziewicza) // Там жа. 1984. № 4; Гліннік В. Базыльянская царква ў Беразвеччы // Строительство и архитектура Белоруссии. 1990. № 2; Габрусь Т. Загублены шэдэўр // Страчаная спадчына. 2 выд. Мн., 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**Беразіно** (цяпер горад, цэнтр Бярэзінскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім ваяв., на р. Бярэзіна. Вядома з 1501 як мястэчка Любашанскага староства Віленскага ваяв. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66

у Менскім павеце і ваяводстве. З сярэдзіны 16 ст. ўладанне Сапегаў. 24.9.1641 Л.Сапега заснаваў у Б. касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі (будаўніцтва вялося да 1644). У 1668 вял. князь літоўскі і кароль польскі Ян II Казімір выдаў прывілей Б. на штогадовы кірмаш. У антыфеад. вайну 1648—51 летам 1648 тут вяліся баі з загонам А.*Нябабы*. З 1671 уладанне Тышкевічаў. У Паўн. вайну 1700—21 каля Б. 16—17.7.1708 цераз р. Бярэзіна пераправіўся са сваім войскам шведскі кароль Карл XII. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

**Бераставіцкі касцёл візітацыі Дзевы Марыі**. Пабудаваны каля 1615 у мяст. Вялікая Бераставіца (цяпер г.п. Вялікая Бераставіца Гродзенскай вобл.) па фундацыі кашталяна віленскага Г.Хадкевіча, які заснаваў там місію кармелітаў. Пасля пажара 1741 замест драўлянага касцёла на сродкі кашталяна кракаўскага Е.А.Мнішка пабудаваны мураваны касцёл у стылі барока. У 2-й пал. 18—1-й пал. 19 ст. пры касцёле дзейнічала парафіяльная школа, у 1794 заснаваны шпіталь. Храм — мураваная 3-нефавая базіліка з трансептам, паўкруглай апсідай і 2 нізкімі сакрыстыямі па баках алтарнай часткі. Гал. зах. фасад бязвежавы, падзелены пілястрамі на 3 часткі і завершаны ступеньчатым атыкам. Рэліквіяй касцёла быў абраз анёлаў-ахоўнікаў работы Ф.Смуглевіча (1797—1807). Пад будынкам крыпта (пахавальня) — 9 памяшканняў, злучаных праходамі. З 1865 правасл. царква, у 1920—40 і з 1990-х г. касцёл.

*Літ.*: Маліноўская Т. Да гісторыі Вялікабераставіцкага касцёла XVII ст. // Наш радавод. Гродна, 1992. Кн. 4, ч. 3.

***Валерый Пазднякоў.***

**Берастэчка** (укр. Берестечко, цяпер горад у Гарохаўскім р-не Валынскай вобл., Украіна), горад у Луцкім павеце, на р. Стыр. З 15 ст. ўпамінаецца як с. Берасткі Перамыльскай воласці. У 15—пач. 16 ст. належала Багавіцінам. У 1544 кіеўскі ваявода Ф.Г.Пронскі ажаніўся з Ф.Б.Багавіцін, узяўшы ў пасаг за ёю Б. 24.6.1559 атрымала магдэбургскае права. У 1585 луцкі староста А.Ф.Пронскі перадаў мясц. касцёл арыянам (быў у іх да 1654). З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1629 — 2300 жыхароў, 389 дымоў. У сярэдзіне 17 ст. Б. — гал. цэнтр арыянства на Валыні, каля 1644 у Б. жыў вядомы арыянскі прапаведнік А.Вішаваты. У 1648 у Б. 315 дымоў, у 1649 — 150 дымоў. 28.6—10.7.1651 каля Б. адбылася бітва паміж казакамі Б.Хмяльніцкага і войскам Яна II Казіміра, яе вынікам стала падпісанне Белацаркоўскага дагавора 1651. У гонар перамогі войск Рэчы Паспалітай у Б. быў пабудаваны касцёл. У 1658 крымскія татары захапілі Б., 750 жыхароў былі закатаваны або апынуліся ў нявolі. У 1690 Томаш і Ян Карчэўскія фундавалі кляштар трынітарыяў, будаўніцтва цягнулася да сярэдзіны 18 ст. З 1765 Б. належала Замойскім, якія пачалі будаўніцтва замка, у 1795 — Плятэрам. У канцы 18 ст. ў Б. 2853 жыхары, царква, аптэка, лесапільня, гарбарныя прадпрыемствы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Берасце** (сучасны Брэст, цэнтр Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Берасцейскага павета* і *Берасцейскага ваяводства*. На р. Буг. Упершыню ўпамінаецца пад 1019. З 1199 у складзе *Галіцка-Валынскага княства*. У горадзе існаваў *Берасцейскі замак*, у 13 ст. ўзведзена мураваная царква св.



Герб **Берасця**.

Пятра. У 1-й пал. 14 ст. Б. перайшоў пад уладу вял. князя ВКЛ Гедзіміна. Пасля ўладанне кн. Кейстута, у складзе Троцкага княства. У 1349—66 Б. знаходзілася пад уладай польскага караля Казіміра III. У 1379 разбураны рыцарамі Тэўтонскага ордэна. З 14 ст. існавалі *Берасцейскія гарадскія ўмацаванні*. У 1382—84 уладанне кн. Скіргайлы, потым кн. Вітаўта. У час барацьбы паміж Ягайлам і Вітаўтам у 1388—92 Ягайла ў 1390 авалодаў Б. і 15.8.1390 дараваў яму магдэбургскае права. 25.1.1408 горад атрымаў права на самакіраванне ад Вітаўта. У 14 ст. існавалі гасціны двор, мураваная кафедральная Мікалаеўская царква, у 15 ст. пабудаваны драўляныя Міхайлаўская (ва ўрочышчы Пяскі) і Крыжаўзвіжанская (за Мухаўцом) цэрквы. У Б. адбылася *Берасцейская сустрэча 1409*, на якой Вітаўт і Ягайла вырашылі распачаць *Вялікую вайну 1409 — 11* супраць Тэўтонскага ордэна. У *Грунвальдскай бітве 1410* прымала ўдзел Берасцейская харугва. З 1413 цэнтр Берасцейскага староства Троцкага ваяв. У час *феадальнай вайны 1432—39* спалены войскамі вял.



**Берасце**. Фрагмент гравюры Э.Дальберга. 1657.



**Берасце**. Царква св. Мікалая. Гравюра 19 ст. з малюнка 18 ст.

кн. Свідрыгайлы, але замак узяты не быў. У 1456 і 1486 у Б. падпісаны мірныя дагаворы з Тэўтонскім ордэнам. У 15—1-й пал. 16 ст. ў Б. неаднаразова праходзілі соймы ВКЛ. У 1500 горад, акрамя замка, захоплены крымскімі татарамі. У пач. 16 ст. цэнтр павета *Падляшскага ваяводства*. У 16—17 ст. існаваў кальвінскі збор. У 1525 пажар знішчыў цэнтр горада і замак. У 1550—70-я г. ў Б. дзейнічалі *берасцейскія друкарні*. У 1566 у Б. існавалі Спаса-Праабражэнская царква, Сімяонаўскі манастыр і манастыр Нараджэння Багародзіцы з 2 цэрквамі. З 1591 у Б. дзейнічала правасл. брацтва і школа пры ім, у якой выкладаў Л.*Зізаній*. У Б. была абвешчана *Берасцейская унія 1596*. У 1598 створана *Берасцейская эканомія*. У сярэдзіне 17 ст. ў Б. існавалі 14 цэхаў, якія аб'ядноўвалі майстроў 48 прафесій. З 1615 у горадзе з'явілася езуіцкая місія, з 1623 пры езуіцкай рэзідэнцыі працавала школа, з 1633 дзейнічаў *Берасцейскі езуіцкі калегіум*. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* у 1648 горад разбурылі казакі Б.Хмяльніцкага, у 1648 і 1649 адбыліся паўстанні гараджан. У 1653 у горадзе праходзіў сойм Рэчы Паспалітай. У *Паўночную вайну 1655—60* у 1657 заняты і спалены шведскімі войскамі, вызвалены 20.8.1658 атрадам пад камандаваннем М.К.Радзівіла. У 1659 адкрыты *Берасцейскі манетны двор*. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у студз.—чэрв. 1660 заняты войскамі маскоўскага ваяводы І.А.Хаванскага. У час *Паўночнай вайны 1700—21* праз Б. праходзілі рас. і шведскія войскі, былі створаны правіянцкія склады рас. арміі; разбураны горад вызвалены на 4 гады амаль ад усіх дзярж. павіннасцей. У 14—18 ст. у Б. існавалі касцёлы і кляштары аўгусцінцаў, бернардзінцаў, бернардзінак, брыгітак, дамініканцаў, трынітарыяў, уніяцкія цэрквы і манастыры (гл. адпаведныя артыкулы). З 18 ст. існавала *Берасцейская грэка-каталіцкая епархія*. У 1726 створана *Берасцейская рымска-каталіцкая епархія*. Б. быў гал. рачным портам на Бугу. У канцы 18 ст. падскарбі А.*Тызенгаўз* заснаваў суконную мануфактуру. У 1792 у Б. знаходзілася Генеральнасць *Таргавіцкай канфедэрацыі*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ*.: [Паевский Л.С.]. Город Брест-Литовск и его древние храмы: (Ист. очерк). Гродна, 1894; Зоненберг Х. История города Брест-Литовска, 1016—1907: По достоверным источникам и правдоподобным умозаключениям. Варшава, 1908; Щербицкий О.В. Город Брест-Литовский: Ист. очерк. Вильна, 1913; Забела Т. Места Берасьцейскае ў XVI сталецьці: (Социяльна-экономічны нарыс) // Зап. Аддзела гуманітарных навук Бел. АН. Мн., 1929. Кн. 8; Щербаков С.О. З історії соціальної боротьби в м. Бресті в першій половині XVII в. // Доповіді та повідомлення ЛДУ ім. І.Франка. Львів, 1958. Вип. 8, ч. 1; Лавровская И.Б. «Белые пятна» культуры нашей: Судьба памятников истории и архитектуры Бреста (XIV—XIX вв.) // Архитектура и наследство. 1991. № 4, 6; Баравы Р. Атрыманьне магдэбурскага права Берасьцем і палітычная барацьба ў Вялікім Княстве Літоўскім на мяжы XIV—XV ст. // Бел. гіст. агляд. 1994. Сш. 1; Берасцейскі хранограф. Вып. 1—3. Брэст, 1997—2002; Белы А. Невядомыя эпізоды «невядомае вайны», або Ваенныя дзеяньні Швэцыі супраць ВКЛ у 1656—1657 гг. вачыма Эрыка Дальбэрга // Спадчына. 1999. № 3; Яго ж. Планы гарадоў Беларусі з калекцыі Яна Георга Максыміляна фон Фюрстэнгофа // Там жа. 1998. № 6.

***Валерый Грынявецкі.***

**Берасцейскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ у 16—18 ст. Створана ў ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66. Цэнтр — г. *Берасце*. Падзялялася на *Берасцейскі павет* (у яго склад увайшлі тэр. б. Берасцейскага і Камянецкага пав.) і *Пінскі павет* (тэр. б. Пінскага, Кобрынскага,




План **Берасця** пач. 18 ст. Копія 1740 І.Г.М. фон Фюрстэнберга.

Тураўскага, Давыд-Гарадзецкага, Дубровіцкага княстваў). У 1791 у складзе Б.в. ўтвораны *Кобрынскі павет* і *Пінска-Зарэчны павет* (цэнтр — с. Плотніца). У 1792 Пінска-Зарэчны пав. перайменаваны ў Запінскі пав. з цэнтрам у Століне. У выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) усх. частка ваяводства адышла ў склад Рас. імперыі. Пасля 3-га падзелу (1795) амаль уся тэр. ваяводства ў складзе Расіі, крайнія зах. раёны — у складзе Аўстрыі і Прусіі.

Ваяводы берасцейскія: Ю.В.Тышкевіч (1566—76), Г.І.Гарнастай (1576—88), М.П.Сапега (1588), К.Ю.Зяновіч (1588—1614), А.Я.Тышкевіч (1615—31), А.Л.Радзівіл (1631—35), Я.Ракоўскі (1635—38), М.Сапега (1638—42), Т.Трызна (1642—45), А.Масальскі (1645—51/52), Ю.Кляноўскі (1652—53), М.Бжазоўскі (1653—59), К.Л.Еўлашэўскі (1659—64), Я.Т.Кунцэвіч (1664—66), М.С.Савіцкі (1666—67/68), К.Пякарскі (1668—72), С.Курч (1672—1702), К.Камароўскі (1702—08), У.Ю.Сапега (1709—33), К.Л.К.Сапега (1735), А.Т.Хадкевіч (1735—45), Я.М.Салагуб (1746—48), К.Ю.Сапега (1748—68), Я.А.Гарайн (1768—77), М.Т.Лапацінскі (1777—78), Я.Т.Зіберг (1778—95).

Кашталяны берасцейскія: Я.М.Гайка (1566—75), Б.П.Сапега (1580—85), К.Ю.Зяновіч (1585—88), А.Л.Пацей (1588—93), Р.М.Война (1593—каля 1603), С.М.Война (1603—10), І.І.Мялешка (1610—15), Л.В.Копаць (1615—21), М.Н.Дольскі (1621—23), Б.Стравінскі (1624—27), А.Ф.Масальскі (1627—43), Ф.А.Копаць (1643—51), М.С.Савіцкі (1652—66), К.Пякарскі (1666—68), С.Курч (1668—72), С.К.Песачынскі (1672—87), Д.К.Савіцкі (1687—98), М.Садоўскі (1698—1701), К.У.Раецкі (1701—08), Р.Садоўскі (1710—21), Я.П.Нестаровіч (1721—31), В.А.Жаба (1731—36), С.Таркоўскі (1736—48), С.А.Бужынскі (1748—52), Я.Храптовіч (1752—56), А.Абрамовіч (1757—63), Я.А.Гарайн (1764—68), М.Матушэвіч (1768—73), Ю.Быстры (1774—83), Ю.Шчыт-Неміровіч (1783—95).

*Валерый Пазднякоў.*

**Берасцейская Біблія**, Радзівілаўская Біблія, помнік польскамоўнага кнігадрукавання ў ВКЛ. Выдадзена ў 1563 у Берасці на сродкі М.*Радзівіла* Чорнага, старасты берасцейскага, аднаго з кіраўнікоў кальвіністаў у ВКЛ (гл. *Кальвінізм*). На той час Б.Б. была адным з лепшых выданняў у ВКЛ і Польшчы. Сярод яе перакладчыкаў былі Гжэгаж Оршак, Пётр Статорыус, Ян Тэнаўдус, Ежы Шоман, Якуб Любельчык. У выданні, відаць, прымаў удзел і Ц.*Базылік*, які ў той час кіраваў адной з берасцейскіх друкарняў. Поўная назва Б.б. — «Біблія святая, гэта значыць Кніга Старога і Новага запаветаў з яўрэйскай, грэчаскай і лацінскай нанава на польскую мову са стараннасцю і дакладна перакладзеная». У ёй пазначана: «Друкавана ў Берасці Літоўскім паводле загаду і коштам яснавяльможнага пана Мікалая Радзівіла, князя на




**Берасцейская Біблія**. Тытульны ліст.

Алыцы і на Нясвіжы, ваяводы віленскага, у Вялікім княстве Літоўскім найвышэйшага маршалка і канцлера». У выданні змешчаны поўны тэкст Старога і Новага запаветаў. Амаль на кожнай яе старонцы на палях змешчаны каментарыі да тэксту. Упершыню ў гісторыі кнігадрукавання на Беларусі змешчаны прадметны паказальнік. У прадмове, пратэстанцкай па накіраванасці, перакладчыкі тлумачаць прынцыпы і асаблівасці перакладу, адзначаюць, што за ўзор бралі Біблію на французскай мове (выдадзена гугенотамі). Кніга — вялікі фаліянт з гравюрамі і багатым графічным афармленнем. Асобныя гравюры паводле кампазіцыі, малюнка і некаторых дэталей узыходзяць да гравюр Ф.*Скарыны*. Біблія выдадзена фарматам «у аркуш», у ёй 738 старонак. Тэкст надрукаваны гатычным шрыфтам у 2 калонкі па 58 радкоў у кожнай. Экзэмпляры Б.Б. зберагаюцца ў Рас. дзярж. б-цы ў Маскве, Рас. нац. б-цы ў Пецярбургу, Цэнтр. б-цы АН Літвы, у Ягелонскай б-цы ў Кракаве і інш., няпоўны экзэмпляр — у Цэнтр. навук. б-цы імя Я.Коласа Нац. АН Беларусі.

*Літ.*: Kosman M. Reformacja i Kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Нікалаеў М. Экзэмпляры Радзівілаўскай Біблії 1563 г. ў пецярбургскіх сховішчах // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. Warszawa, 1995.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Берасцейская грэка-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка уніяцкай царквы. З канца 16 ст. епіскапы *Уладзіміра-Берасцейскай грэка-каталіцкай епархіі* насілі тытул «епіскап уладзімірскі і берасцейскі». У 18 ст. тытул «епіскап берасцейскі» мелі дапаможныя епіскапы (суфраганы) Уладзіміра-Берасцейскай епархіі, часткай якой лічылася Б.г.-к.е. Ахоплівала Берасцейскі пав. і Падляшскае ваяв. (без паўн. часткі). У 1772 налічвала 10 дэканатаў (Бельскі, Бяльскі, Берасцейскі, Дарагічынскі, Камянецкі, Кобрынскі, Мельніцкі, Палескі, Пружанскі, Уладаўскі), 268 парафій, 4 базыльянскія манастыры. Кафедра берасцейскіх епіскапаў знаходзілася ў царкве св. Мікалая ў Берасці. Самастойную уніяцкую епархію з цэнтрам у Берасці стварыў у 1797 Павел I (праіснавала да 1839).

*Літ.*: Wereda D. Kolatorowie parafii unickiej diecezji brzeskiej w XVIII wieku // Rozcniki humanistyczne. Historia. 2000. Z. 2; Я е ж. Działalność bractw cerkiewnych w unickiej diecezji brzeskiej w XVIII wieku // Religie. Edukacja. Kultura. Lublin, 2002; Я е ж. Bazylianie w unickiej diecezji brzeskiej w XVIII wieku // Białoruskie zeszyty historyczne. 2003. Z. 19.

*Валерый Пазднякоў.*

**Берасцейская рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Каля 1628 біскупы *Луцкай рымска-каталіцкай епархіі* пачалі тытулавацца «біскуп луцкі і берасцейскі». Каля 1717 створаны Берасцейскі архідыяканат Луцкай епархіі. У 1726 епархіяльны сінод на аснове архідыяканату стварыў Б.р.-к.е. ў складзе 8 дэканатаў [цэнтры — Бельск, Бранск, Венграў, Дарагічын, Камянец, Лосіцы, Шарашова (пасля Міжрэчча), Янаў], яна налічвала 118 парафій у Берасцейскім пав. і Падляшскім

ваяв. З-за таго, што епархія створана не папскай уладай, яе капітул (створаны ў 1746 пры калегіяце ў Янаве) не меў паўнамоцтваў кафедральнага. Не мела ўласнай кафедры. Луцкі біскуп А.Нарушэвіч у 1793 стварыў на аснове Б.р.-к.е. Берасцейскі суфраганат з уласным біскупам (суфраганам луцкага біскупа), якім у 1795 прызначаны А.Клакоцкі. У 1795 тэрыторыя Б.р.-к.е. падзелена паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй, у 1799—1805 яе часткі далучаны да інш. епархій.

*Літ.*: Wernerowa W. Szkice kartograficzne Karola de Pertheesa z obszaru diecezji brzesko-łuckiej // Religie. Edukacja. Kultura. Lublin, 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Берасцейская сустрэча 1409**, перагаворы ў Берасці ў час *Вялікай вайны 1409—11* паміж каралём Польшчы Ягайлам і вял. князем ВКЛ Вітаўтам. На сустрэчы ў Берасці ў снеж. 1409 на працягу 9 дзён былі прыняты рашэнні пра план летняй кампаніі 1410 супраць Нямецкага ордэна і далейшы ход вайны, час і месца збору аб'яднаных ваен. сіл, пабудову пантоннага моста для пераправы цераз Віслу. На Б.с. прысутнічаў хан Джэлаладдзін (сын Тахтамыша), якому падпарадкоўвалася залатаардынская конніца, што была на службе ВКЛ. Паводле дамоўленасці саюзная армія складалася з 91 харугвы (палка), з іх 51 рыхтавала Польшча, 40 — ВКЛ. У склад войска ВКЛ уваходзілі Берасцейская, Віцебская, Ваўкавыская, Дарагічынская, Лідская, Пінская, Полацкая і інш. харугвы, татарская конніца, а таксама валашскія, чэшска-мараўскія, венгерскія атрады. План, распрацаваны ў час Б.с., здзейснены 15.6.1410 у ходзе *Грунвальдскай бітвы 1410*.

**Берасцейская унія 1596**, пагадненне пра аб'яднанне праваслаўнай царквы з каталіцкай на тэр. Рэчы Паспалітай. Абвешчана 18.10.1596 на царк. саборы ў Берасці, зацверджана вял. князем ВКЛ і каралём польскім Жыгімонтам III Вазай. Паводле ўмоў Б.у. правасл. царква прызнавала вяршэнства папы рымскага, каталіцкі догмат аб зыходжанні Святога Духа не толькі ад Бога-Айца, але і ад Бога-Сына (з часам прынята і інш. каталіцкая дагматыка, некат. абрады). У выніку прыняцця Б.у. правасл. царква Рэчы Паспалітай стала грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквой. Яна захавала ўласную арганізацыйную структуру і іерархію, многія правасл. абрады, богаслужэнне



Акт **Берасцейскай уніі 1596**.

на царкоўнаслав. мове, бел. і ўкр. мовы ў рэліг. літаратуры і казаннях. Падрыхтоўка да Б.у. праводзілася на аснове *Фларэнційскай уніі 1439*, якая фармальна была пашырана на тэр. ВКЛ і якую да пач. 16 ст. фармальна прызнавалі некаторыя мітрапаліты кіеўскія і епіскапы. Гал. прычынай заключэння уніі было імкненне да кансалідацыі царк. і свецкіх феадалаў ВКЛ і Польшчы пасля Люблінскай уніі 1569, паводле якой ВКЛ і Польскае каралеўства аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую. Правасл. іерархі ВКЛ не жадалі падпарадкоўвацца маскоўскаму патрыярху, які прыняў гэты тытул у 1589 і меў намер пашырыць сваю царк. ўладу на ўсю тэр. былой Кіеўскай Русі. Адначасова яны разлічвалі атрымаць усе прывілеі каталіцкіх біскупаў, абаперціся на падтрымку каталіцкай царквы ў нарастаючым канфлікце з *брацтвамі праваслаўнымі* і ў барацьбе з рэфармацыйным рухам. Папства праз унію імкнулася пашырыць свой уплыў на Усход. Рымска-каталіцкая царква і кароль Жыгімонт III бачылі ў уніі магчымасць ідэйна згуртаваць духавенства і феадалаў ВКЛ пры правядзенні ўнутр. і знешняй палітыкі кіруючых колаў Рэчы Паспалітай, а таксама сродак для сумеснай барацьбы супраць Рэфармацыі.

Гал. тэарэтыкам уніі быў езуіт П.*Скарга*, які абгрунтаваў сваю задуму ў кн. «Пра еднасць касцёла Божага» (1577). Непасрэднымі ініцыятарамі падпісання Б.у. сталі епіскапы ўладзімірскі і берасцейскі Іпацій *Пацей* і луцкі і астрожскі Кірыла *Цярлецкі*. Да іх далучыліся мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі Міхаіл *Рагоза*, архіепіскап полацкі і віцебскі Грыгоры Загорскі, епіскапы тураўскі і пінскі Лявонцій Пяльчыцкі (потым Іона Гогаль), львоўскі і камянец-падольскі Гедэон Балабан, холмскі і белзскі Дыянісій Збіруйскі, перамышльскі і самбарскі Міхаіл Капысценскі. Князь К.К.*Астрожскі* спачатку таксама быў прыхільнікам уніі, але напярэдадні яе заключэння змяніў сваю пазіцыю. Адышлі ад ідэі заключэння уніі таксама Гедэон Балабан і Міхаіл Капысценскі. Супраць уніі выступіла таксама частка правасл. шляхты, духавенства і гараджан. У ліст. 1595—лютым 1596 Іпацій Пацей і Кірыла Цярлецкі знаходзіліся ў Рыме, дзе ўмовы уніі былі зацверджаны рымскім папам Кліментам VIII. 16—20.10.1596 у Берасці адбыўся сабор для канчатковага зацвярджэння царк. уніі. У ім удзельнічалі правасл. епіскапы і інш. прыхільнікі уніі, а таксама яе праціўнікі на чале з Астрожскім і епіскапамі Гедэонам Балабанам і Міхаілам Капысценскім. Сабор адразу падзяліўся на 2 групоўкі — уніяцкую і праваслаўную, якія збіраліся паасобку. 9.10.1596 у царкве св. Мікалая была ўрачыста абвешчана Б.у. Правасл. сабор унію не прыняў. Непрыняццю уніі спрыялі Нікіфар, экзарх канстанцінопальскага патрыярха ў Рэчы Паспалітай, і Кірыла Лукарыс, экзарх александрыйскага патрыярха. Уніяцкі сабор праводзіў свае пасяджэнні да 10.10.1596. Быў прыняты пастырскі ліст пра Б.у. і пра адхіленне ад сану Гедэона Балабана, Міхаіла Капысценскага і інш. святароў, якія не прынялі унію. Праціўнікі уніі таксама сімвалічна пазбавілі сану уніяцкага мітрапаліта і епіскапаў. Кароль Жыгімонт







Медаль у гонар заключэння **Берасцейскай уніі 1596.**

III універсалам ад 15.12.1596 зацвердзіў акт Б.у. і заклікаў беларусаў і ўкраінцаў прызнаць уніяцкіх епіскапаў. Унію прыняла значная частка правасл. насельніцтва Рэчы Паспалітай, але ў некаторых раёнах яна не замацавалася (Слуцкае княства, наваколле Пінска і Магілёва). Супраціўленне часта прымала актыўныя формы (забойства полацкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча ў час *Віцебскага паўстання 1623*). Рэлігійныя канфлікты мелі месца і ў інш. гарадах Беларусі, на соймах у 1-й пал. 17 ст. У 1620 адноўлена правасл. царква на Украіне (з падпарадкаваннем ёй правасл. насельніцтва на Беларусі), у 1632 яна была афіцыйна прызнана ўрадавымі коламі Рэчы Паспалітай (зацверджана на сойме 1633). Паступова уніяцкая царква ахапіла сваёй дзейнасцю шырокія масы гар. і асабліва сельскага насельніцтва. Б.у. ў Рас. імперыі была скасавана Полацкім царкоўным саборам 1839.

*Літ.*: Коялович М. Литовская церковная уния. Т. 1—2. СПб., 1859—61; Pelesz J. Geschichte der Union der ruthenischen Kirche mit Rom von den ältesten Zeiten bis auf die Gegenwart. T. 1—2. Wien, 1881; Panucevič V. Bieraściejskaja vunija. Chicago, 1972; Unia brzeska i jej następstwa. Gdańsk, 1991; Грыцкевіч А. Уніяцкія тэндэнцыі і уніяцкая царква на Беларусі ў XV—XVIII стагоддзях // Хрысьціянская думка. 1993. № 1; Unia brzeska: geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich. Kraków, 1994; Історичний контекст, укладення Берестейської унії і перше поунійне покоління: Матеріали Перших «Берестейських читань». Львів, Івано-Франківськ, 1—6 жовтня 1994 р. Львів, 1995; З гісторыі уніяцтва ў Беларусі: (да 400-годдзя Брэсцкай уніі). Мн., 1996; Дмитриев М.В., Флоря Б.Н., Яковенко С.Г. Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI—начале XVII в. Ч. 1. Брестская уния 1596 г.: Исторические причины. М., 1996; Дмитриев М.В., Заборовский Л.В., Турилов А.А., Флоря Б.Н. Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI—первой половине XVII в. Ч. 2. Брестская уния 1596 г.: Исторические последствия события. М., 1996; Chynczewska-Hennel T. Unia brzeska XVII stulecia w polskiej historiografii // Białostockie zeszyty historyczne. 1996. Z. 2; Halecki O. Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1—2. Lublin, 1997; Ґудзяк Б. Криза і реформа: Київська митрополія, Царгородський патріархат і генеза Берестейської унії. Львів, 2000; Марозава С.В. Берасцейская царкоўная унія 1596 г. ў беларускай гістарыяграфіі. Гродна, 2002; Дмитриев М.В. Брестская уния в исследованиях польских и российских историков // Российско-польские научные связи в XIX—XX вв. М., 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***



Аўтар Я.К.Анішчанка

**Берасцейская эканомія,** каралеўская гаспадарка ў ВКЛ у 16—18 ст. Створана ў 1589 з дзярж. маёнткаў, даходы з якіх ішлі на ўтрыманне каралеўскага двара. У 16—17 ст. была асобнай адм.-гасп. адзінкай, маёнткі яе здаваліся ў арэнду. У пач. 18 ст. аб'яднана з *Кобрынскай эканоміяй*. Паводле інвентару 1783, Б.э. падзялялася на 5 губерняў (45 ключоў), у іх было 17 фальваркаў, 8 гарадоў і 223 вёскі — усяго 5745 валок зямлі; уключала таксама Белавежскую пушчу. У 1780-я г. насельніцтва эканоміі — 46 942 чал. На адну сял. гаспадарку прыпадала 0,58 валокі. У выніку ўзмацнення эксплуатацыі сялян і інтэнсіфікацыі с.-г. вытворчасці даходнасць эканоміі ў 18 ст. павялічылася ў параўнанні з 17 ст. у 8 разоў. Большасць сялян эканоміі — цяглыя, за карыстанне 0,5 валокі адраблялі ў год 208 дзён паншчыны, адбывалі згоны, шарваркі, падводную і інш. павіннасці. У 1778 у эканоміі адбылося выступленне сялян. Пасля далучэння да Рас. імперыі (1795) уладанні эканоміі рас. ўрад падараваў ці прадаў прыватным асобам.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Его ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966.

***Якаў Мараш.***

**Берасцейскі абраз Маці Божай.** Паводле падання, раней захоўваўся ў касцёле дамініканцаў у мяст. Шараўцы на Падоллі, потым у *Берасцейскім кляштары дамініканцаў*. У час казацкіх войнаў 17 ст. захоплены татарамі, але адбіты М.Патоцкім, жонка якога Святаслава аздобіла абраз металічным абкладам з каронамі. Абраз намаляваны на палатне, наклееным на дошку памерам 120 × 80 см; кампазіцыя мае зах.-еўрап. паходжанне. Знаходзіцца ў Брэсцкім парафіяльным касцёле Св. Крыжа. Захаваўся і металічны

абклад 2-й пал. 17 ст. 30.6.1995 абраз урачыста каранаваны як цудатворны.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Берасцейскі архідыяканат**, адм.-тэр. адзінка каталіцкай царквы. Створаны каля 1717 у *Луцкай рымска-каталіцкай епархіі* для кіравання паўн.-зах. абласцямі гэтага біскупства. Цэнтр Б.а. — *Берасце*. У 1726 на аснове Б.а. створана *Берасцейская рымска-каталіцкая епархія*.

**Берасцейскі базыльянскі манастыр**. Засн. у *Берасці* ў 1629 мітрапаліт Іосіф Руцкі. Да 1631 пабудаваны драўляная царква і манастырскія будынкі. Віdаць, у 1788 пачалі ўзводзіць мураваную Петрапаўлаўскую царкву. Храм — 3-нефавая базіліка з 2 вежамі на гал. фасадзе і вял. прэсбітэрыем, які прасторава працягваў шырокі цэнтр. неф. Гал. фасад адпаведна стылістыцы барока меў хвалістую глыбінна-прасторавую структуру. Пілястры фасада пастаўлены на магутны руставаны цокаль. Скляпенні кампактнага 3-часткавага кафалікона (больш развітага ў шырыню, чым у глыбіню) падтрымлівалі спараныя падпружныя аркі. Кожны з апорных слупоў раскрапоўвалі 8 складанапрафіляваных пілястраў. У нартэксе над уваходам размяшчаліся хоры з парапетам пластычнага абрысу. У паўкруглай апсідзе стаяў мураваны гал. алтар з 2-ярусным ордэрнай кампазіцыяй, астатнія 6 малых алтароў былі перанесены са старой драўлянай царквы. Будаўніцтва царквы не было скончана (не ўзведзены 2 вежы па баках фасада). Ззаду царквы стаяў П-падобны ў плане 1-павярховы будынак манастыра. Побач з царквой узведзена мураванае 2-павярховае вучылішча. Пры манастыры існаваў шпіталь і рэзідэнцыя епіскапаў. Манастыр скасаваны ў 1831, пабудовы разабраны ў 1830-я г. ў сувязі з будаўніцтвам Брэсцкай крэпасці.



**Берасцейскі базыльянскі манастыр**. Петрапаўлаўская царква.

*Літ.*: Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001; Слюнькова И.Н. Монастыри восточной и западной традиций: Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002; Страчаная спадчына. 2 выд. Мн., 2003.

*Тамара Габрусь.*

**Берасцейскі езуіцкі калегіум**. Існаваў у 17—18 ст. у *Берасці*. У 1615—17 па запрашэнні луцкага біскупа П.Валуцкага Берасце наведвалі езуіты з Луцка, у горадзе існавала іх місія. У 1618 пры падтрымцы Л.І.Сапегі, які выдзеліў на заснаванне калегіума маёнтак Дзераўная з вёскамі Мальткі і Менявеж, езуітаў паўторна запрасіў у Берасце біскуп А.Ліпскі. У 1619—33 існавала езуіцкая рэзідэнцыя, у 1623 суперыёр А.Макоўскі пабудаваў для яе будынак. Пры рэзідэнцыі існавала школа. Каля 1630 працавала муз. бурса. У 1633 рэзідэнцыя пераўтворана ў калегіум. З 1676 у Б.е.к. пачала фарміравацца б-ка, першыя кнігі падараваў В.Лахоўскі, у 1731 значны кнігазбор у 300 тамоў падараваў Я.Ф.Сапега. Прыблізна з 1676 працавала аптэка. З канца 17 ст. да 1760-х г. пры калегіуме працаваў тэатр. У 1623 пабудавана капліца, у 1653—59 узведзены касцёл Ісуса і Св. Казіміра (фундатар К.Л.Сапега). У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1659 касцёл спалены рас. войскамі, у 1683—92 адбудаваны як 3-нефавая базіліка з трансептам і 2-вежавым гал. фасадам, які быў насычаны архітэктурнай пластыкай і завяршаўся трохвугольным франтонам з валютамі (фундатар Б.Сапега), інтэр'ер размаляваны ў 1692—1702, меліся 13 алтароў, арган. У 1669 кароль Міхал Вішнявецкі перадаў езуітам в. Плоска з землямі ў Прылуках. З пач. 18 ст. да 1755 вялося будаўніцтва новага будынка для калегіума. У 2-павярховым корпусе, які паўтараў лінію вуліцы, знаходзіліся аптэка, трапезная, студэнцкі парлаторыум. Тэрыторыя калегіума была абнесена сцяной і падзелена на гасп. двор (уключаў кухню, свірны, бровар, стайню і інш.), невял. аптэчны агарод і 2 сады. Каля 1727 побач з касцёлам пабудавана вежа-званіца. У 1772—73 навуч. г. ў Б.е.к. было 28 выкладчыкаў. У 17—18 ст. калегіуму належалі вёскі Ляскавічы, Машковічы, Паніквы, Слаўкі, Студзіловічы і інш. Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 будынкі перададзены базыльянам. У калегіуме вучыліся К.*Лышчынскі* і Ю.*Нямцэвіч*.

*Валерый Грынявецкі.*

**Берасцейскі замак**. Існаваў да 18 ст., уваходзіў у комплекс *берасцейскіх гарадскіх умацаванняў*. Размяшчаўся каля сутокаў Мухаўца і Буга на трохвугольным у плане мысавым гарадзішчы памерам 234 × 187 × 234 м. Пляцоўка замкавага дзядзінца (пл. больш за 2 га) была ўмацавана высокім земляным валам, на якім знаходзілася 5 вежаў і драўляныя гароднi — «каморы». У лініі абароны, звернутай у бок горада, была вежа з брамай і гадзіннікам, а «от Муховца на всход солнца» — вуглавая вежа, якая разам з 2 інш. вежамі засцерагала замак з боку Замухавечча. Паўд. і паўд.-зах. ўчасткі лініі абароны замка ахоўвалі 2 вежы, адна з іх была брамавай, і ўмацаваны дугападобным ровам, які жывіўся водамі Мухаўца і Буга. 4 вежы замка былі драўляныя, можна меркаваць, што яны мелі 2—3 ярусы абароны. У дакументах сярэдзіны 16 ст. адзначаецца, што на адной з вежаў было кругавое «бланкованe»



**Берасцейскі езуіцкі калегіум**. Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.



План **Берасцейскага замка**. Фрагмент гравюры Э.Дальберга. 1657.

(баявая галерэя). У старой браме «с ганком наверху» вісеў ратны «звон великий». Мураваная вежа 13 ст. ўпамінаецца як вуглавая ля Мухаўца. Асн. лінію абароны Б.з. складалі 2-ярусныя гародні — «каморы посполитые». Ніжнія іх паверхі (уласна каморы) у час аблогі замка займалі жыхары горада і валасці з дзецьмі і скарбам. Усе 129 камор-гародняў запіраліся на «защепки» і «ланцуги на скоблях». На 2-і ярус, дзе знаходзілася крытая стрэшкай баявая галерэя («бланкованье»), вяла лесвіца. У лінію абарончых сцен уключаліся і жылыя памяшканні — «светлицы», пастаўленыя глухімі фасадамі вонкі. Даглядалі абарончыя збудаванні і зброю спец. слугі і замкавыя рамеснікі. У мірны час замкавая валасць штодня вылучала па 12 вартаўнікоў і «кликунов», якія пільнавалі замак ад пажару. У цэйхгаўзе Б.з. ў 1566 знаходзілася металічных даспехаў на 100 чал., 12 гармат, 1 марціра, 96 гакаўніц, 7 жалезных «кіёў» (стара-свецкая ручная агнястрэльная зброя), коп'і, пратазаны, арбалетныя стрэлы — балты, 360 гарматных ядзер, формы для адліўкі, інш. зброя і рыштунак. Інвентар 1566 зафіксаваў наяўнасць у замку помпаў для скрытай падачы вады, якая ішла па пракладзеных пад зямлёй драўляных трубах. Гэтыя «помпы медяные або спижные за штемпелями железными» прыводзіліся ў дзеянне вял. колам вадзянога млына, пастаўленага на рацэ пад замкам. З яго дапамогай магла працаваць і механічная «ступа на толчение пороху», а пры неабходнасці і сукнавальня — «фолюш». Вадапомпавае прыстасаванне абслугоўвалася спец. майстрам «рурмистром». Гэта пабудова завяршалася «вежицей» і, відаць, была разлічана на выкарыстанне для патрэб абароны. У мірны час гарнізон замка быў невялікі, а ў выпадку вайны тут размяшчаўся спец. кантынгент. Уся зброя і ваен. амуніцыя набываліся за кошт прыбыткаў ад Берасцейскай і Кобрынскай эканомій; з сялян традыцыйна набіралася пяхота замкава-га гарнізона. Планавакампазіцыйная структура ўмацаванняў Б.з. заставалася нязменнай да 18 ст. За час свайго існавання Б.з. перажыў шмат аблог і разбурэнняў. У разгар Паўночнай вайны 1700—21 у 1705 умацаванні замка не вытрымалі аблогі войск шведска-га ген. Меерфельда. Пасля вайны драўляныя ўмацаванні былі заменены 5-бастыённымі пабудовамі, якія ў 19 ст. былі ўключаны ў склад новастворанай Брэсцкай крэпасці.

*Міхась Ткачоў.*

**Берасцейскі кляштар аўгусцінцаў.** Існаваў у *Берасці* ў 14—19 ст. Першы драўляны кляштар аўгусцінцаў пабудаваны пасля 1380 за межамі Берасця, паміж рэкамі Угрынка і Мухавец. У 1672 перанесены ў цэнтр горада, на рыначную плошчу. У 1683—86 пабудаваны барочны касцёл Прасвятой Тройцы — 1-нефавы храм з 2-яруснай шатровай вежай-званіцай на гал. фасадзе (перабудоўваўся пасля пажараў у 1801 і 1808). Прылеглыя да вежы часткі гал. фасада касцёла былі завершаны валютамі і пінаклямі. Унутры храм быў перакрыты драўлянымі скляпеннямі, на сценах меліся намаляваныя алтары. Побач знаходзіўся 1- і 2-павярховы будынак кляштара, у якім размяшчалася кухня, пякарня, трапезная і келлі, меліся 3 крамы. Пры кляштары быў вялікі сад з агародам. Уся тэрыторыя кляштара была абнесена агароджай. Комплекс Б.к.а. знішчаны ў 1830-я г.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII—XVIII вв. // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27.

*Валерый Грынявецкі.*



**Берасцейскі кляштар аўгусцінцаў**. Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.



**Берасцейскі кляштар бернардзінак**. Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.

**Берасцейскі кляштар бернардзінак.** Існаваў у 17—19 ст. ў *Берасці*. Засн. А.Копаць у 1623 за гар. валам. У час *Паўночнай вайны 1655—60* знішчаны пажарам. У 1659 перанесены бліжэй да кляштара бернардзінцаў. У 1750 пабудаваны познебарочны мураваны касцёл Бязгрэшнага Зачацця Дзевы Марыі (арх. Бенядзікт Мазуркевіч, Антоні Даўгяла) — 1-нефавы храм з прамавугольнай апсідай. Гал. фасад падзяляўся на 2 гарызантальныя ярусы і 3 вертыкальныя часткі, быў фланкіраваны 2 нізкімі вежамі з цыбулепадобнымі завяршэннямі. Інтэр'ер упрыгожвалі фрэскі, знаходзіліся гал. 2-ярусны пазалочаны алтар і бакавыя алтары, якія размяшчаліся каля ўнутр. контрфорсаў, апрацаваных вязкамі пілястраў. У 1780 да касцёла прыбудаваны П-падобны ў плане 2-павярховы кляштар. На 1-м паверсе размяшчалася прыёмная, келля ігуменні, трапезная, на 2-м — 13 келляў, якія мелі выхад на галерэю з відам на замкнуты ўнутраны дворык з садам.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII—XVIII вв. // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27.

***Валерый Грыняевецкі.***

**Берасцейскі кляштар бернардзінцаў.** Існаваў у 17—19 ст. у *Берасці*. Засн. луцкім біскупам М.Шышкоўскім у 1605. Размяшчаўся ў Валынскім прадмесці Берасця пры ўпадзенні р. Мухавец у Буг. Побач з драўлянымі будынкамі была мураваная капліца св. Дароты. Пасля пажару 1617 кляштар адбудаваны на сродкі ваяводы мсціслаўскага і старасты берасцейскага Г.Хадкевіча. У 1623 Я.Галімскі пры фінансавай падтрымцы канцлера ВКЛ Л.І.Сапегі збудаваў мураваны касцёл Яна Хрысціцеля і св. Ганны — 3-нефавую базіліку з закрытай галерэяй. Да касцёла прылягаў мураваны будынак кляштара, у 1647 у ім жыло 30 манахаў. У спецыяльна прыбудаванай да касцёла капліцы знаходзілася копія абраза Маці Божай з рымскага храма Санта-Марыя Маджорэ, атрыманая П.Пацеем ад папы рымскага Клімента VIII разам з візантыйскім абразом Ісуса Хрыста. Кляштар значна пацярпеў у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У якасці кампенсацыі кляштар атрымаў з дзярж. скарбу 80 тыс. злотых датацыі караля Яна ІІ Казіміра і П.Сапегі, які завяшчаў пахаваць яго ў адбудаваным касцёле. У 18 ст. праведзена яго рэстаўрацыя (тут працаваў архітэктар і мастак Б.Мазуркевіч, алтары аднаўляў разьбяр Я.Бляўскі).

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII—XVIII вв. // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27; Страчаная спадчына. 2 выд. Мн., 2003.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Берасцейскі кляштар брыгітак.** Існаваў у 1623—1830 у *Берасці*. Знаходзіўся ў паўн. прадмесці горада Пяскі. Напачатку быў драўляны. Мураваны касцёл Дабравешчання Марыі асвячоны ў 1751; адначасова пабудаваны 2-павярховы кляштарны корпус, які застаўся незакончаным. Увянчаны 8-гранны вежай храм меў незвычайны для бел. архітэктуры авальны план з асобнай



**Берасцейскі кляштар брыгітак.** Галоўны фасад касцёла. Чарцёж 19 ст.

капліцай для манашак. Інтэр'ер быў аздоблены стукавай лепкай і 11 разьбянымі алтарамі. Існавалі гасп. будынкі: стайні, хлявы, свірны, карэтнік і інш. Да іх прымыкалі сад і агарод. Уся тэрыторыя была абнесена мурам.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII—XVIII вв. // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27; Страчаная спадчына. 2 выд. Мінск: Беларусь, 2003.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Берасцейскі кляштар дамініканцаў.** Існаваў у 1—й трэці 17 ст.—1830 у *Берасці*. Засн. ў 1635 (паводле інш. звестак у 1628) берасцейскай войскай Соф'яй Магдаленай Бухавецкай, дачкой каралеўскага сакратара Марыяна Лакніцкага. Адрокшыся ад кальвінізму, яна запісала берасцейскім дамініканцам усе маёнткі, якія атрымала ў спадчыну ад бацькоў і 2 мужоў: 5 фальваркаў і вёскі Чамяры, Дэрло, Дубаў, Велань. Кляштар размяшчаўся на востраве, пры дарозе на Кобрын. Першыя, відаць, драўляныя будынкі амаль усе знішчаны ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Кляштар нанава адбудаваны на сродкі Соф'і Пражмоўскай. Яна ж падаравала яму і абраз Маці Божай, які праславіўся як цудатворны (цяпер у фарным касцёле). Мураваны касцёл Св. Соф'і асвячоны ў 1696, карпусы кляштара пабудаваны значна пазней (у 1798 яшчэ не былі закончаны). Пры кляштары існавалі навіцыят (установа для падрыхтоўкі новых членаў ордэна) і школа. Аднанефавы касцёл з 2 бакавымі капліцамі, накрытымі купаламі, вызначаўся багатым жывапісна-разьбярскім аздабленнем; пры гал. алтары знаходзілася надмагілле С.Бухавецкай.



**Берасцейскі кляштар дамініканцаў.** Галоўны фасад комплексу. Чарцёж 19 ст.

*Літ.*: Wołyniak. Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej. Cz. 1. Kraków, 1917; Квитницкая Е.Д. Монастыри Бреста XVII—XVIII вв. // Архитектурное наследство. М., 1979. Вып. 27; Страчаная спадчына. 2 выд. Мінск: Беларусь, 2003.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Берасцейскі кляштар трынітарыяў.** Існаваў у Кобрынскім прадмесці *Берасця* ў 17—19 ст. Пабудаваны з цэглы ў 1730—60-я г. ў стылі позняга барока. Мураваны 2-павярховы П-падобны ў плане кляштар



**Берасцейскі кляштар трынітарыяў.** Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.



з убудаваным у яго цэнтры касцёлам св. Барбары быў абгароджаны мураванай сцяной з нішамі з боку двара. Касцёл — прамавугольны ў плане будынак з амаль квадратнай алтарнай апсідай. У яго інтэр'еры ўнутр. контрфорсамі вылучана 8-граннае выцягнутае па даўжыні восі асн. памяшканне з капліцамі па баках. Гал. фасад падзяляўся антаблементамі на 3 ярусы: ніжні з уваходным парталам і акном, што асвятляла хоры, быў рытмічна расчлянёны пілястрамі, меў масіўны цокаль, сярэдні — у выглядзе прамавугольнага атыка з разарваным франтонам і круглым акном у цэнтры, верхні — складаны па форме атыкавы франтон з паўцыркульным завяршэннем (у яго цэнтры была фрэска з сімвалічнай выявай эмблемы ордэна трынітарыяў, пазней заменены выявай крыжа). У інтэр'еры было 7 разных алтароў, упрыгожаных скульптурай.

**Берасцейскі манетны двор.** Варшаўскі соймік 1659 пастанавіў яго стварыць для прадукцыі на 1 млн. злотых медных *солідаў* для ВКЛ. Адчынены ў *Берасці* пазней для выканання наступных кантрактаў арандатара манетных двароў Ц.Л.Бараціні па вырабу медных солідаў Яна II Казіміра. Працаваў з 4.12.1665 да 16.12.1666 на падставе пагаднення паміж прадстаўніком земскага скарба ВКЛ і кіраўніком манетнага двара А.М.Банданэлі (прадстаўнік Бараціні). Выбіў солідаў на суму 2 646 268 злотых і 10 грошаў (лічачы па 3 соліды на грош, па 90 на злоты). На аверсе солідаў пад партрэтам Яна II Казіміра знаходзяцца ініцыялы Бараціні TLB, на рэверсе змешчаны герб ВКЛ «Пагоня», пад ім манаграма вял. падскарбія Г.Крышпіна Кіршэнштэйна з яго ініцыялаў і назвы пасады (першы выпадак ужывання нац. мовы замест лацінскай на манетах Рэчы Паспалітай). Некат. частка солідаў Б.м.д. падобная на соліды *Віленскага манетнага двара* (характэрныя памылкі ў легендах аверса, абрысы знака інтэрпункцыі), што сведчыць аб перадачы з Вільні інструмента на новы манетны двор, які быў укамплектаваны работнікамі кароннага манетнага двара з Уяздаўскага замка пад Варшавай. Берасцейскія соліды маюць адметныя рысы: шчыт з вострым вуглом, малая манаграма падскарбія, асобыя абрысы літар легенды, кампаноўка выявы герба і слоў легенды. Па наборах пунсонаў вызначаюцца 2 майстры-граверы, якія аднгачасова працавалі на Б.м.д.

*Літ.*: Сінчук Й. Бэрысьтјіська мінныця в 1665—66 роках // Јітвјежа (поліська) штудјіно-прахтыцька конфырэнцыя. Пынськ, 1990.

***Іван Сінчук.***

**Берасцейскі павет**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у складзе *Падляшскага ваяводства*, пасля *Берасцейскага ваяводства*. Цэнтр — г. *Берасце*. Берасцейская зямля ў 12—13 ст. уваходзіла ў склад *Галіцка-Валынскага княства*, у 1-й пал. 14 ст. перайшла пад уладу вял. князя ВКЛ Гедзіміна. З 1413 існавала Берасцейскае староства ў складзе Троцкага ваяв. У 1513 утвораны Б.п. у складзе *Падляшскага ваяводства*. З пач. 16 ст. у Б.п. праводзілася валочная памера, вынікі якой падсумаваныя рэвізіяй 1566. У ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 да Б.п. далучаны Кобрынскі і Камянецкі паветы, Б.п. увайшоў у склад Берасцейскага ваяв. У Б.п. існавалі мястэчкі (гарады) Белая, Бяроза, Вішніцы, Воўчын, Высокае, Ганна, Гарадзішча, Дзівін, Камянец, Кобрын, Кодань, Леўкава (Дакудава), Міжрэчча, Пружаны, Пяшчатка, Ражанка, Славяцічы, Уладава, Чарнаўчыцы, Шарашоў, Янаў і інш. Харугва Б.п. — блакітнага колеру з выявай «Пагоні» ў чырвоным полі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) большая частка Б.п. далучана да Рас. імперыі, яго зах. раёны – да Аўстрыі.

*Тв.*: Wawrzyńczyk A. Rozwój wielkiej własności na Podlasiu w XV i XVI wieku. Wrocław, 1951; Міхалюк Д. Памежныя спрэчкі паміж Каронай і Вялікім Княствам Літоўскім у 16—17 стст. на прыкладзе Мельніцкай і Берасцейскай земляў // Гіст. альманах. Гародня, 2001. Т. 5.

***Валерый Пазднякоў.***

**Берасцейскі Сімяонаўскі манастыр.** Існаваў у *Берасці* ў 15—19 ст. Упершыню ўпамінаецца як старажытны ў прывілеі вял. кн. Аляксандра Берасцю 1499, меў цэрквы Сімяона Слупніка і Дабравешчання. У 16 ст. патроны манастыра — паны Солтаны. З 1596 уніяцкі. У 1604 Солтаны прадалі землі заняпалага і пакінутага манахамі манастыра вял. маршалку ВКЛ К.М.Дарагастайскаму. Пасля ўладальнікамі гэтых зямель і патронамі манастыра былі Сапегі, Красінскія, Выгоўскія. З 1633 манастыр зноў праваслаўны, сюды пераехалі манахі з Яблачынскага Ануфрыеўскага манастыра. З 1640 ігумен Б.С.м. — *Афанасій Берасцейскі*, які быў пахаваны ў царкве Сімяона. У 1680 пабудавана царква св. Стафана. У 1716 пабудовы манастыра знішчаны пажарам, пасля чаго ўзведзена новая царква Сімяона. У 1753 ігумен манастыра Імануіл Белашыцкі прыняў унію і перадаў берасцейскім базыльянам частку архіва Б.С.м. і яго зямель. У 1824 манастыр скасаваны, яго пабудовы разабраны ў 1833 у сувязі з будаўніцтвам Брэсцкай крэпасці.

***Валерый Пазднякоў.***

**берасцейскія гарадскія ўмацаванні**. Існавалі ў *Берасці* ў 14—18 ст. Размяшчаліся па перыметры тэрыторыі, абмежаванай 2 рукавамі р. Мухавец. Агульная даўж. 2,5 км. Іх аснову складалі земляны вал з парканам і абарончы роў, запоўнены вадою (быў толькі з усх. боку, на астатніх участках вал абмываўся рукавамі ракі). Паводле пісьмовых звестак 16—17 ст. і планаў 17—19 ст., структура абароны Берасця вызначалася як стабільная. Зыходзячы з іх, можна меркаваць, што ў лініі гар. умацаванняў былі як мінімум 4 брамы. Ва ўсх. частцы горада знаходзілася «брама от уліцы Заугринки», якая выводзіла на Віленскі гасцінец, дарогу ў Кобрын і далей у паўд. і ўсх. раёны Беларусі. У розных дакументах яна называецца то «брама Виленская», то «брама Завгрынецкая». Другая брама — Пясочная — запірала «улицу Песок» і адчыняла шлях да «гостинца Краковского» ў Забужжа; трэцяя — Рынкавая — адчыняла дарогу з гар. рынку ў *Берасцейскі замак*; чацвёртая — Замухавецкая — выводзіла ў Замухавечча (за р. Мухавец) і далей на Ковель, у Валынь. Не выключана, што ў лініі ўмацаванняў стаяла і 5-я брама. Відаць, гэта была невял. традыцыйная «фортка» — выхад на гар. сенажаці, размешчаныя на Пн і ПнЗ ад «места», дзе пазней пабудавалі касцёл брыгітак. Перад кожнай з брам былі масты. Мост перад Віленскай брамай меў 9—10 м даўжыні, астатнія былі ў некалькі дзесяткаў метраў, бо перакрывалі Зах. Буг і Мухавец. Абарончы вал праходзіў па краі астраўной тэр. горада. У адным з дакументаў 1580 сказана, што «вал сам в собе цалый и до обороны местское пожиточный и городнями вколо ку обороне местской паркан на нем обудован». Параметры яго дакладна невядомы, хоць вал у раёне «брамы Завгрынецкой… так был широкий за городнями, яко через 2 сажни вшыр на ров ку воде для хоженья и обороны вшелякое, а з другой стороны от места




Аўтар карты М.Ф.Спірыдонаў



межи домы местскими, а межи тыми ж городнями вколо тот же вал так был широкий, яко 2 возы великих скарбных оменутисе могли». Абарону Берасця ажыццяўлялі самі гараджане. Рамеснікі, аб'яднаныя ў цэхавыя ваен. фарміраванні (мечнікі, слесары, кавалі, рэзчыкі, сталяры, шынкары, краўцы, пекары і інш.), паводле статутаў сваіх цэхаў абавязаны былі мець «супольную армату, ... бубен і хоругву к оздобе для обороны места». Кожны цэх са сваёй збраёй удзельнічаў у ваен. аглядах — «пописах» — і ва ўсіх «патрэбах местских». Яны прымалі абавязковы ўдзел у рамонце ўмацаванняў, асобныя ўчасткі якіх былі замацаваны за кожным цэхам. Сейм адзначаў стратэг. важнасць Б.г.у. як «брамы Вялікага княства Літоўскага ў Карону», на якой трымалася «сіла ўсяе Рэчы Паспалітай». Пасля вял. пажару 1525 гараджане прасілі караля перадаць ім у рукі права «у месте Берастейском мыто брати с купцов», абавязваючыся за гэтыя прыбыткі «ку обороне паркану гаковницы и порохи и иные потребы бронные справовати и к тому мосты мостити на Муховцы, на Угринце, на Струзе, у бронах и по улицам своим, где перед тым мащивали». Кароль даў дазвол на 10 гадоў, пры гэтым ён нагадаў, каб неадкладна, у першую чаргу пачалі будаваць «паркан как наши мещане, так и князские, и паньские, и духовные тыи вси мають делницы свои заробити потому, как и перед тым всим местом робили». Для хутчэйшага аднаўлення ўмацаванняў горад вызвалілі на 10 гадоў ад усіх падаткаў, што станоўча адбілася на аднаўленні Б.г.у. Паводле апісання Берасцейскага староства за 1566, тут быў нанава адбудаваны замак, «место в паркане», «место за парканом» і новы раён Замухавечча. Рамонт умацаванняў праводзіўся паэтапна, для выканання «валавай работы» дробныя рамесніцкія цэхі аб'ядноўваліся. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Варшаўскі сейм прыняў спец. дэкларацыю пра неадкладнае аднаўленне Б.г.у.: горад вызвалілі ад падаткаў, з *Берасцейскай эканоміі* ўсе прыбыткі накіроўваліся на мэты ваенна-фартыфікацыйных работ і закупкі амуніцыі. Былі нанава спланаваны ў выглядзе магутнага пояса бастыённых умацаванняў, якія абкружылі горад і шырока спалучалі штучныя і прыродныя перашкоды. Вайна, у якую ўключалася Швецыя, тармазіла аднаўленне ўмацаванняў. Пасля Паўночнай вайны 1700—21 Б.г.ў. былі адноўлены, праіснавалі да канца 18 ст., калі зніклі пад гар. забудовай.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 68, 86, 112, 134, 156; Документы Московского архива Министерства юстиции. Т.1. М., 1897. С. 206—227, 442—446; Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Т. 28. Акты о евреях. Вильна, 1901. С. 20; Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. СПб., 1861. Т. 3. С. 247, 283—284, 297; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 46—54.

***Міхась Ткачоў.***

**берасцейскія друкарні**. Дзейнічалі ў 1550—70-я г. ў *Берасці* (дакладная колькасць невядома). Мецэнатам большасці з іх быў канцлер ВКЛ, ваявода віленскі і стараста берасцейскі М.*Радзівіл* Чорны. Узнікненню друкарняў садзейнічаў значны ўздым у культ. развіцці Беларусі, пашырэнне міжнар. культурных сувязей і ўплыў Рэфармацыі. У ліку друкароў-кнігавыдаўцоў Б.*Ваяводка* (1553—54), С.*Мурмеліус* (1558—60-я г.), Ц.*Базылік* (1560—70-я г.). Першыя кнігі, выдадзеныя Ваяводкам, адпавядалі патрэбам рэфармацыйнага руху: Вялікі і Малы Катэхізісы, перакладныя тэалагічныя творы Крыштофа Імлера і Урбана Рэгіуса. З выданняў Мурмеліуса вядомы: «Два пасланні» (1559) — адказ папскаму нунцыю Ліпамано, у якім рэзка крытыкавалася царк.-рэліг. палітыка рымскай курыі, яе бесцырымоннае ўмяшанне ў справы інш. краін; «Гісторыя пра папу Іаана VIII, які быў жанчынай» (1560); збор прававых твораў Б.Граіцкага — «Артыкулы магдэбургскага права», «Судовы працэс» (1560) і інш. Пэўная колькасць выданняў выйшла без упамінання друкара: *Берасцейская Біблія* (1563); сатырычная антыкаталіцкая паэма «Пратэй, або Пярэварацень» (1564), у якой высмейваліся некаторыя звычаі і традыцыі шляхты. Найб. росквіту кнігадрукаванне ў Берасці дасягнула пад кіраўніцтвам Базыліка. У гэты час надрукавана больш за 40 выданняў рознага зместу на польскай і лац. мовах, у якіх адлюстраваны духоўныя і ідэйныя сувязі прагрэсіўных дзеячаў бел., літоўскай і польскай культур, разнастайныя белетрыстычныя, гіст., паліт. працы. Выдаўцы Б.д. адрасавалі значную частку сваіх кніг «простым», «посполитым» чытачам. У іх афармленні шырока выкарыстоўваліся рэнесансавая графіка, наборныя арнаменты, застаўкі, канцоўкі, фігурныя ксілаграфіі, гатычныя шрыфты, адчуваецца сувязь з кніжным мастацтвам Польшчы і краін паўночнаеўрап. Адраджэння.

*Літ.*: Парэцкі Я.І. Антырэлігійная сатыра Брэсцкага друкарскага двара ў XVI ст. // Беларуская літаратура. Мн., 1979. Вып. 7; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959.

***Георгій Галенчанка.***

**беркавец**, адзінка масы для вымярэння солі, лёну, паташу, рыбы і інш. Вядомы на Русі з 12 ст., быў роўны 12 пудам, або 500 фунтам (163,80 кг). У ВКЛ у 18 ст. складаўся з 10 віленскіх камянёў, або 400 фунтаў (149,92 кг). Ужываўся таксама Б. у 5 камянёў (74,96 кг). У гандлі з Рыгай меў значэнне паўпуда, у Інфлянтах быў роўны літоўскаму Б., падзяляўся на 10 пураў па 72 шынковыя гарцы.

*Літ.*: Петрушевский Ф. Польские меры, или Описание польских мер, весов и монет. 2 изд. СПб., 1834.

***Яўген Анішчанка.***

**бернардзінцы**, манахі рэфармаванай галіны манаскага ордэна *францысканцаў* (меншыя браты захавання правіла, лац. Fratres Minores Regularis Observantiae, OFMObs). Б. прытрымліваліся першапачатковага, больш строгага статута Францыска Асізскага. Патрабаванні аб вяртанні да гэтага статута з'явіліся ў 13—пач. 14 ст. У 1415 францысканскі прапаведнік Бярнард Сіенскі звярнуўся да папы рымскага Марціна V з просьбай пацвердзіць першапачатковы статут. Канстанцкі сабор 1415 задаволіў гэту просьбу. У 1430 на генеральным капітуле ордэна францысканцаў-абсервантаў, пазней на тэр. Рэчы Паспалітай і паўднёваслав. землях за імі замацавалася назва «бернардзінцы» (ад імя Бярнарда Сіенскага). У 1431 пры папе Яўгене IV францысканцы-абсерванты атрымалі права ўвесці пасаду генеральнага вікарыя. Ім стаў Бярнард Сіенскі. Канчатковы разрыў Б. з ордэнам францысканцаў адбыўся ў 1517 пры папе Льве IX. Апраналіся Б. ў сутану цёмна-шэрага колеру з капюшонам, плашч, насілі пояс з белай воўны. У Польшчу Б. запрасіў у 1453 Казімір IV, бернардзінец Я.Капістран заклаў кляштар у Кракаве. У ВКЛ першыя бернардзінскія кляштары заснаваны ў 1468 у Вільні і Коўне. Галоўнай мэтай





Да арт. **Бернардзінцы**. Кароль польскі і вял. князь літоўскі Казімір IV з жонкай сярод бернардзінцаў (уперадзе св. Ян Капістран). Карціна 17 ст.

Б. на Беларусі былі місіянерская праца сярод правасл. насельніцтва і пастырская дзейнасць. У 1467 створаны Польскі вікарыят, а на яго аснове ў 1517 — Польская правінцыя, з якой у 1530 вылучылася Літоўская правінцыя (у 1570 зноў аб'яднана з Польскай). У 1628 Польская правінцыя падзелена на Велікапольскую, Малапольскую, Рус. і Літоўскую, а ў 1630 Малапольская, Рус. і Літоўская правінцыі аб'яднаны ў Польскую (Малапольска-Літоўскую) правінцыю. З апошняй у 1637 вылучылася Рус. правінцыя, а ў 1731 — Літоўская. Манашкі-бернардзінкі першапачаткова сяліліся пры мужчынскіх кляштарах ордэна і не прымалі абавязку сталага жыхарства пры кляштары (кляўзуру). У 1566 папа Пій V абавязаў іх прыняць кляўзуру і 3 манаскія абавязкі. На Беларусі дзейнічалі 4 жаночыя кляштары Б.: у Берасці (1624—1831, фундатар Алена Копаць з Дольскіх), Гародні (каля 1618—1853, фундатар Геранім Валовіч, староста жамойцкі), Менску (1630—1866, фундатар Аляксандр Слушка, ваявода троцкі), Слоніме (1645—1907, фундатар Канстанцыя Юдзіцкая-Салатыцкая). Мужчынскіх кляштараў Б. было значна больш: у Беніцы (1700—1852, фундатар Казімір Коцел, кашталян троцкі), Беразіне (1682—1832, фундатар Канстанцін Уладзіслаў Пац, надворны харужы ВКЛ), Будславе (1504—1858, фундатар Аляксандр Ягелончык), Гародні (1494—1853, фундатар Аляксандр Ягелончык), Берасці (1605—1830, фундатар Марцін Шышкоўскі, біскуп луцкі), Віцебску (1676—1832, фундатар Ян Антоній Храпавіцкі, ваявода віцебскі), Валожыне (1683—1860, фундатар Юзаф Багуслаў Слушка, гетман польны ВКЛ, кашталян віленскі), Глуску (1662—1832, фундатар Аляксандр Гілярый Палубінскі, вял. маршалак ВКЛ), Друі (1646—1850, фундатар Казімір Леў Сапега, падканцлер ВКЛ), Іўі (1631—1858, фундатар Мікалай Кішка, ваявода мсціслаўскі), Магілёве (1696—1864, фундатар Тэадор Жавускі, лоўчы рэчыцкі), Мазыры (1645—1832, фундатар Міхал Лозка, маршалак мазырскі), Менску (1624—1868, фундатар Андрэй Кянсоўскі, стараста краснасельскі), Мікуліне (1704—1832, фундатар Марцыян Міхал Агінскі, кашталян віцебскі, і яго жонка Тэрэза з Бжастоўскіх), Мсціславе (1729—1832, фундатар Ян Юзаф Рамейка-Гурка, харужы віцебскі, і яго жонка Хрысціна з Галынскіх), Нясвіжы (1598—1864, фундатар жонка Мікалая Радзівіла Сіроткі Гальшка Яўфімія з Вішнявецкіх), Оршы (1631—1832, фундатар Андрэй Млоцкі, стараста хелмскі, і яго жонка Хрысціна з Масальскіх), Пінску (1705—1832, фундатар Міхаіл Сервацы Вішнявецкі, гетман ВКЛ, і яго жонка Кацярына з Дольскіх), Полацку (1498—1563, фундатар Аляксандр Ягелончык; 1696—1832, фундатар Дамінік Слушка, ваявода полацкі), Селішчы (1729—1832, фундатары Іасафат Антоній Сялява, падсудак полацкі, і Ян Юзаф Рагоза, падчашнік і ротмістр полацкі), Слоніме (1630—1864, фундатары Ян Жарноўскі і Андрэй Радван), Слуцку (1671—1832, фундатар Самуэль Аскерка, суддзя земскі мазырскі, палк. каралеўскіх войск). Пры кляштарах Б. дзейнічалі школы (у т.л. ў Будслаўскім кляштары з 1756 музычная школа), амаль кожны кляштар меў б-ку; берасцейскія Б. трымалі аптэку. Пасля далучэння Беларусі і Літвы да Рас. імперыі ўплыў Б. паступова змяншаўся, амаль усе іх кляштары спынілі дзейнасць у 1860-я г.

Б. называюць таксама *цыстэрцыянцаў*.

*Літ.*: Kantak K. Bernardyni polscy. T. 1—2. Lwów, 1933; Zakony męskie w Polsce w 1772 roku. Lublin, 1972 (Materiały do Atlasu historycznego chrzescijaństwa w Polsce. T. 1).

***Людміла Карнілава.***

**Бернардоні** (Bernardoni, Bernardone, Bernardonus) Джавані (Ян) Марыя (1541, Каньё, правінцыя Кома, Італія— 19.11.1605), італьянскі архітэктар, прадстаўнік барока. 10 гадоў працаваў мулярам, з 1564 у Рыме, дзе ўступіў у ордэн езуітаў, каб стаць архітэктарам. Да канца жыцця заставаўся манахам. Працаваў на будоўлях езуітаў у Рыме (пад кіраўніцтвам Дж. Трыстана), Абруца, Неапалі, на в-ве Сардзінія, дзе самастойна выканаў 3 праекты калегіумаў. У 1583 выехаў у Нясвіж, але затрымаўся ў Польшчы на езуіцкіх будоўлях Познані, Любліна, Каліша. З 1586 у Нясвіжы, дзе яго гал. справай было праектаванне і нагляд за будаўніцтвам езуіцкага касцёла Божага Цела і калегіума. Аўтарству Б. прыпісваюць таксама кляштар бернардзінак з касцёлам св. Яўфіміі, кляштар бернардзінцаў з касцёлам св. Кацярыны, капліцы св. Рафала і св. Лазара, шпіталь і капліцу Св. Духа (усе ў Нясвіжы і побач), касцёлы св. Пятра і Паўла ў Новым Свержані і св. Мікалая ў Міры. З меншай



верагоднасцю прымаецца яго ўдзел у разбудове Нясвіжскага і Мірскага замкаў і інш. пабудоў маёнткаў Радзівілаў. З яго пабудоў захаваліся касцёл Божага Цела і кляштар бернардзінак (часткова) у Нясвіжы, касцёлы ў Новым Свержані і Міры. Паводле некат. меркаванняў, Б. вывучыў на архітэктара выхадца з Менска Я.Франкевіча, стваральніка езуіцкага касцёла св. Казіміра ў Вільні. У 1599 выехаў у Кракаў для кіраўніцтва будоўляй езуіцкага касцёла св. Пятра. Выканаў таксама праекты кляштара бернардзінцаў у Кальварыі Зэбжыдоўскай і парафіяльнага касцёла ў Зэбжыдовіцах. Вядомы 2 лісты Б.: да прафесара-езуіта Х.Клавіо па пытаннях матэматыкі і астраноміі і да Радзівіла Сіроткі пра будаўніцтва ў Кракаве з падзякай князю за падтрымку ў мінулым. У Навук. б-цы Нац. АН Украіны (Кіеў) захоўваецца рукапісны арх. альбом канца 16—пач. 17 ст. з выявамі пабудоў Беларусі таго часу, сярод якіх ёсць творы Б.

*Літ.*: Габрусь Т., Галенчанка Г. Праверaная алгебрай гармонія // Мастацтва Беларусі. 1990. № 5; Калнін В.В. Архітэктар Я.М.Бернардоні — прадвеснік барока ў Беларусі // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. Мн., 1998; L'architetto Gian Maria Bernardoni SJ tra l'Italia e le terre dell'Europa centro-orientale. Roma, 1999.

***Валянцін Калнін.***

**Бернатовіч** (Bernatowicz) Тадэвуш (н. 27.3.1956, г. Арнета Вармінска-Мазурскага ваяв., Польшча), польскі гісторык мастацтва. Д-р гісторыі мастацтва (1992). Скончыў Пазнанскі ун-т (1982). У 1983—92 працаваў у Майстэрнях кансервацыі помнікаў, з 1993 у Ін-це гісторыі мастацтва Варшаўскага ун-та (яго віцэ-дырэктар у 1997—2000), адначасова з 2003 віцэ-дырэктар Ін-та мастацтва Польскай АН. Чл. Польскага нац. к-та Міжнар. рады аховы помнікаў (яго генеральны сакратар у 2003—04). Даследуе архітэктуру і мастацтва Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны 16—18 ст., мецэнацтва Радзівілаў.

*Тв.*: «Biblioteka jest jedna ozdoba...»: Mikołaj Radziwiłł Sierotką i książki // Badania księgozbiorów Radzwiłłów. Warszawa, 1995; Alba w czasach Karola Radziwiłła «Panie Kochanku» // In artium hortis. Warszawa, 1997; «Entre evantail et etoile»: Zwierzyńce w osiemnastowiecznej Polsce i ich europejskie związki // Barok. 1997 № 1; Miles christianus et peregrinus: Fundacje Mikołaja Radziwiłła «Sierotki» w ordynacji nieświeskiej. Warszawa, 1998; Monumenta variis Radivillorum: Wyposażenie zamku nieświeskiego w świetle źródeł archiwalnych. Cz. 1. XVI—XVII wieki. Poznań, 1998; Nesvisium Metropolis Ducatus: Nieznany przykład urbanistyki manierystycznej // Artes atque humaniora. Warszawa, 1998; Die Befestigungen von Nieśwież — ein unbekanntes Werk von Giovanni Bernardoni // Architetti e ingegnieri militari italiani all'estero dal XV al XVIII secolo a cura di Marino Vigano. Livorno, 1999; Le chiese del Bernardoni nel Ducato di Njazviz // L'architetto Gian Maria Bernardoni sj tra l'Italia e le terre dell' Europa centro-orientale. Venezia, 1999; Rola Lublina w architekturze sakralnej Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI—XVII wieku // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Abrysy i planty ogrodnika warszawskiego Carla Georga Knackfussa // Arx felicitas. Warszawa, 2001; Snycerz Stefan Müler i jego działalność // Roczniki humanistyczne. 2002. Z. 4.

**Бернулі** (Bernoulli) Іаган (4.11.1744, г. Базель, Швейцарыя—13.7.1807), матэматык, астраном, падарожнік. Вучыўся ва ун-тах у Базелі і Неўшатэлі. З 1763 праф. матэматыкі Берлінскага ун-та, з 1764 чл. Прускай АН, з 1767 дырэктар астранамічнай абсерваторыі ў Берліне. У 1777 зрабіў 1-е падарожжа ў Рэч Паспалітую. У 1778 па дарозе ў Пецярбург наведаў Гданьск, Торунь, Каралявец, Мітаву, Лібаву, Дорпат, у час вяртання — Гародню, Беласток, Варшаву. Вёў падрабязны дзённік, куды заносіў звесткі пра прыроду, прамысловасць, мастацтва, архітэктуру. Апісаў гарадзенскія мануфактуры, тэатр, мед. акадэмію, звярынец, свае сустрэчы з Дж.Сака, Ж.Э.Жыліберам, А.Тызенгаўзам. Падтрымліваў сувязі з вучонымі Рэчы Паспалітай, перапісваўся з Я.Альбертрандзі, М.Пачобутам-Адляніцкім, П.Чапскім і інш.

*Тв.*: Reisen durch Brandenburg, Pommern, Preussen, Curland, Russland und Polen in den Jahren 1777 und 1778. Bd. 1—6. Leipzig, 1779—80; Польск. пер.: Podróż po Polsce 1778 roku // Polska stanisławowska w oczach cudzoziemców. Warszawa, 1963. T. 1.

*Літ.*: Грыцкевіч В., Мальдзіс А. Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980.

***Валерый Пазднякоў.***

**Берэнт** Сымон (1585, Прусія—1649), музыкант і кампазітар. З 1600 працаваў у Рэчы Паспалітай. Пасля вучобы некат. час выкладаў у езуіцкім калегіуме ў Браневе і Віленскай акадэміі, потым прыдворны музыкант канцлера А.С.*Радзівіла* і прынца Аляксандра Вазы. Б. пакінуў вял. музычную спадчыну, але да нашых часоў дайшлі звесткі толькі пра яго 8-галосыя харавыя творы, якія выконваліся ў час набажэнстваў і розных урачыстасцей.

*Літ.*: Дадзіёмава В.У. Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. Мн., 2001.

***Вольга Дадзіёмава.***

**бехцер** (ад тур. bekter), від пласцінкавага даспеха, у якім пласцінкі размяшчаліся доўгімі вертыкальнымі радамі. У ВКЛ у 16 ст. адзначаны «крытыя» Б., дзе пласцінкі злучаліся пры дапамозе асновы, пры гэтым пакрываліся дарагімі тканінамі. Ужываліся і класічныя віды «белых» Б., распаўсюджаныя на Усходзе. У такіх даспехах пласцінкі злучаліся кальчужнымі перамычкамі, паверхня заставалася непакрытай, што стварала магчымасць для аздаблення саміх пласцінак. Аналагічная канструкцыя выкарыстоўвалася і пры вырабе пакрыцця канечнасцей, у дакументах ВКЛ яны ўпамінаюцца як «накаленкі маскоўскія». Б. ўсх. тыпу траплялі ў ВКЛ у якасці трафеяў, закупляліся або выраблялiся на месцы па замежных узорах.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 54—55.

***Юрась Бохан.***

**Бешанковічы** (цяпер горад, цэнтр Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь) горад у Полацкім ваяв., на р. Зах. Дзвіна. Упершыню вёска Б. ўпамінаецца ў сярэдзіне 15 ст. ў сувязі з будаўніцтвам тут правасл. царквы (у 1447 паводле А.П.Сапунова, у 1460 паводле В.В.Турчыновіча), уваходзіла ў Крывінскую воласць Полацкага ваяв. Да 1515 належалі С.Ф.Друцкаму-Бабічу, пасля — яго нашчадкам князям Друцкім-Саколінскім. Паводле рэвізіі Полацкага замка 1552, у Б. 33 дымы. З 1605 уладанне шляхціца Язерскага, з 1615 — аршанскага маршалка М.Адравонжа. У 1630 Б. куплены віленскім ваяводам Л.Сапегам. 4.10.1634 Б. атрымалі магдэбургскае права. З 17 ст. ў мястэчку адбываліся 2 кірмашы на год, самым вядомым быў Петрапалаўскі кірмаш, які пачынаўся 29 чэрв. (у дзень святых Пятра і Паўла) і працягваўся 4 тыдні, штогод на яго з'язджалася да 5 тыс. чал. З 1656 належалі Г.Сапезе, якая была ў шлюбе з С.Нарушэвічам, пасля іх дачцэ, якая ўзяла шлюб з Я.Агінскім. У *Паўночную вайну 1700—21* у 1708 тут размяшчаліся рас войскі., Б. тройчы наведваў Пётр I, у гонар гэтых візітаў уладальнік мястэчка К.Д.Агінскі



пабудаваў драўляную правасл. царкву (не захавалася). У сярэдзіне—2-й пал. 18 ст. Б. — значны гандлёвы і рамесны горад, 5—6 тыс ж., гасціны двор. Пасля смерці ў 1775 кашталяна віленскага І.Агінскага Б. адышлі І.І.Ю.*Храптовічу*, які пабудаваў тут палац. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Б. падзелены на 2 часткі: задзвінская частка (500 двароў) адышла да Рас. імперыі, у Б. у складзе ВКЛ 1000 двароў, касцёл, уніяцкая царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Б. цалкам у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***



Да арт. **Бжастоўскія**. П.К.Бжастоўскі. Партрэт Ф.К.Фабра.

**Бжастоўскія**, шляхецкі род герба «Стрэмя». Паходзілі з Малой Польшчы, у 1-й пал. 17 ст. аселі ў ВКЛ. Адна галіна роду ў 1798 атрымала ў Прусіі графскі тытул, які ў 1846 пацверджаны ў Расіі. Найб. вядомыя:

Цыпрыян Павел (1612—8.6.1688), сын Яна. Рэгент вял. канцылярыі ВКЛ у 1640—50, стольнік віленскі з 1642, пісар дэкрэтавы ВКЛ у 1645—50, рэферэндар ВКЛ у 1650—81, пісар вялікі ВКЛ у 1657—72, кашталян троцкі ў 1681—84, ваявода троцкі з 1684; староста мядзельскі, ашмянскі, субоцкі, аранскі, азяцкі, даўгоўскі, быстрыцкі. Шматразова выбіраўся паслом на соймы. Адзін з відных дыпламатаў ВКЛ, які курыраваў дачыненні з Расіяй. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* удзельнічаў у перагаворах з маскоўскімі пасламі ў Нямежы ў 1658, у Андросаве ў 1663—64, у заключэнні *Андросаўскага перамір'я 1667*. Пасол у Маскву ў 1671—72, 1679.

Эмануэль (?—20.12.1689), сын Цыпрыяна Паўла. Пісар вялікі ВКЛ з 1683.

Канстанцін Казімір (1644—24.10.1722), сын Цыпрыяна Паўла. Канонік віленскі з 1661, кафедральны прапаведнік з 1664. У 1665 выехаў на вучобу ў Рым, дзе атрымаў ступень д-ра тэалогіі (1669). Сакратар духоўны ВКЛ у 1670—84, біскуп смаленскі ў 1684—87 і віленскі з 1687. У 1689 дамогся смяротнага прыгавору для К.*Лышчынскага*. У 1690-я г. ўступіў у востры канфлікт з пануючай у ВКЛ групоўкай Сапегаў (прычынай было размяшчэнне ў 1692 вял. гетманам ВКЛ К.Я.Сапегам войска на зіму ў касцельных маёнтках). Біскупа падтрымаў кароль Ян III Сабескі, які імкнуўся аслабіць уплыў Сапегаў у ВКЛ. У 1694 біскуп пракляў Сапегаў, але рымскі папа выступіў супраць абвастрэння канфлікту, які вёў да разгортвання *феадальнай вайны 1697—1702* паміж шляхтай і Сапегамі. У 1697 заключыў кампрамісная пагадненне з Сапегамі. У час *Паўночнай вайны 1700—21* падтрымліваў караля Аўгуста II, але пасля далучыўся да *Віленскай канфедэрацыі*. У 1713 запрасіў у Вільню рахітаў, у 1722 — піяраў, якія адчынілі калегіум. Падтрымліваў уніяцкую царкву ў ВКЛ, абараняў яе перад рас. царом Пятром I. Аўтар тэалагічных твораў.

Ян Уладзіслаў (1646—29.9.1710), сын Цыпрыяна Паўла. Пісар вялікі ВКЛ у 1672—98, рэферэндар ВКЛ у 1681—1705, кашталян троцкі з 1705; староста субоцкі з 1669, азяцкі 1674, мядзельскі, даўгоўскі, аранскі, быстрыцкі. З 1674 неаднаразова выбіраўся паслом на соймы. Удзельнічаў у вайне шляхты супраць Сапегаў.

Антоній (30.4.1666—25.9.1718), сын Цыпрыяна Паўла. У 1684 уступіў у ордэн езуітаў. Прэфект пабудовы езуіцкай рэзідэнцыі ў Менску ў 1703—04, яе суперыёр у 1704—14, рэктар Менскага езуіцкага калегіума ў 1714—17.

Канстанцін Бенядзікт (?—да 12.11.1722), сын Яна Уладзіслава. Пісар вялікі ВКЛ у 1705—07 і 1711—15, кашталян мсціслаўскі з 1715; староста мядзельскі.

Юзаф (?—сак. 1745), сын Яна Уладзіслава. Пісар вялікі ВКЛ з 1715; староста быстрыцкі.

Міхал (1722—3 або 21.5.1784), сын Канстанціна Бенядзікта. Падарожнічаў па Германіі, Італіі, служыў у франц. арміі. Пасля вяртання атрымаў чыны палкоўніка і шамбляяна (1749). У 1746—64 шмат разоў выбіраўся паслом на соймы. Харужы пяцігорскі, гусарскі, ген.-лейтэнант пяхоты (1753), пісар вялікі ВКЛ у 1758—62, канюшы ВКЛ у 1762—64, падскарбі ВКЛ з 1764; староста аранскі з 1751, ашмянскі ў 1765—70, пунскі з 1766.

Адам (1722—90), сын Канстанціна Бенядзікта. Скончыў Віленскі піярскі калегіум. Пасол на соймы 1738 і 1744, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1758. Ген.-маёр кавалерыі (1748), потым ген.-лейтэнант пяхоты, кашталян полацкі ў 1758—76, чл. Скарбовай камісіі ВКЛ (1766); староста даўгоўскі, маладкоўскі, мсцібаўскі з 1763, сакалоўскі, ваўкавыскі ў 1766—79. Далучыўся да Радамскай, потым — да Барскай канфедэрацыі, пасля яе паражэння эміграваў у Саксонію. Вярнуўся ў 1773, адышоў ад паліт. дзейнасці.

Станіслаў (2.3.1733, мяст. Ваўкалата Ашмянскага пав.—8.4.1769), сын Юзафа. Палкоўнік пяцігорскі, шэф палка булавы вялікай ВКЛ, ваявода інфлянцкі з 1767; староста радашковіцкі, прапойскі, быстрыцкі. Маршалак Радамскай канфедэрацыі ў ВКЛ у 1767. Выступаў супраць Барскай канфедэрацыі.

Павел Ксаверый (30.3.1739, мяст. Мосар Ашмянскага пав.—17.11.1827), сын Юзафа. З 1758 вучыўся ў Рыме ў Калегіум Кліменцінум. Канонік віленскі ў 1755—73, пісар вялікі ВКЛ у 1762—74, святар з 1763, рэферэндар духоўны ВКЛ у 1774—87, архідыякан віленскі з 1823. Мецэнат, фінансаваў выданне кніг езуіцкай, піярскай і базыльянскай друкарнямі ў Вільні. Пераклаў з італьян. мовы кн. «Навука для новых спаведнікаў» («Nauka dla nowych spowiedników», Вільня, 1765—66), з франц. мовы кнігі Б.Грасіяна «Універсальны чалавек» («Cziowiek uniwersalny», Вільня, 1765)



і Дзюамеля дзю Мансо «Праца аб сельскай гаспадарцы» («Dzieło o rolnictwie», т. 1—2, Вільня, 1770—73). Аўтар кн. «Генеалагічныя паведамленні аб доме Бжастоўскіх» («Wiadomość genealogiczna o domie Brzostowskich», на розных мовах, 1776, 1796, 1818). У 1767 набыў маёнтак Мерач у Віленскім пав. (перайменаваў яго ў Паўлава), дзе правёў радыкальныя сац.-эканам. рэформы, увёў самакіраванне сялян (гл. *Паўлаўская рэспубліка*). Рэформы апісаў у кн. «Уставы для добрага парадку і павіннасцей аселых людзей у маёнтку Паўлава ці Мерач, прадпісаныя ў 1771 г.» («Ustawy stosujące się do dobrego porządku i powinności osiadłych ludzi w dobrach Pawłowie czyli Mereczu, przepisane r. 1769», Вільня, 1771, 2-е выд. 1791), «Лісты ананіма, якія апісваюць камісію вольных паўлаўскіх валашчан са сваім дзедзічам, ксяндзом Бж., экс-рэферэндарам ВКЛ» («Listy anonima, opisujące komisją wolnych włościan pawłowskich z dziedzicem swoim, ks. Brz., eks-referendarzem WXL», без месца і года выдання). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) прадаў Паўлава, жыў у Дрэздэне, Рыме. Пасля вяртання пробашч у Рукойнях каля Вільні.

Роберт (7.6.1748, мяст. Міхалішкі Віленскага пав.—пасля 1795), сын Юзафа. Каралеўскі шамбялян, палкоўнік гусарскі, пяцігорскі, чашнік ВКЛ у 1787—91, кашталян полацкі з 1791, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1791.

Міхал Геранім (17.4.1762, г. Нясвіж—1806), сын Станіслава. Скончыў Берасцейскі піярскі калегіум. Староста менскі з 1787. Пасол на *Чатырохгадовы сойм 1788—92*, прыхільнік рэформ. У час праўлення Таргавіцкай канфедэрацыі арыштаваны. Удзельнік паўстання 1794, чл. Найвышэйшай Літоўскай рады (уваходзіў у склад дэпутацыі бяспекі). Пасля 1795 маршалак шляхты Завілейскага пав., з 1801 — Віленскай губ.

Аляксандр (?—1820), сын Адама. Староста ваўкавыскі ў 1779—83, сакалоўскі з 1783, кашталян мазавецкі з 1790. Пасол на сойм 1776, з 1790 — на Чатырохгадовы сойм 1788—92, прыхільнік рэформ. У 1798 атрымаў ад прускага караля графскі тытул.

Міхал (?—1800), сын Адама. Служыў у франц. арміі. Староста пунскі, даўгоўскі, аранскі, каняўскі. Пасол на соймы 1782, 1784. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794. 12.4.1794 арыштаваны ў Вільні, вывезены ў Смаленск, у 1795 адпушчаны на парукі.

***Валерый Пазднякоў.***

**бібліятэка Віленскай акадэміі**. Заснавана ў 1570 як б-ка Віленскага езуіцкага калегіума. Значна пашырылася пасля 1579, калі калегіум пераўтвораны ў *Віленскую акадэмію*. На яе ахвяравалі польскі кароль і вял. князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст, віленскі біскуп В.Пратасевіч, падканцлер К.Л.Сапега. Б-ка атрымлівала абавязковы экзэмпляр з акадэмічнай друкарні, з 1780 — з усіх друкарняў ВКЛ. У 1579 налічвала 4,5 тыс. тамоў, у 1773 — 11 тыс. тамоў. Б-ка мела свае каталогі, кнігі расстаўляліся па 18 аддзяленнях у адпаведнасці з галінамі навукі. З канца 18 ст. ствараліся адносна самастойныя кніжныя зборы факультэтаў. Б-кай карысталіся прафесары акадэміі і студэнты (пабочныя асобы афіцыйна дапускаліся з 1805). Захоўваліся пераважна рэліг. тэалагічныя кнігі, рэдкія выданні і рукапісы, у т.л. твор М.Каперніка «Пра абарачэнні нябесных сфер», працы Пталамея, Арыстоцеля, Р.Дэкарта, стараж. пергаментны псалтыр на царк.-слав. мове, Слуцкі спіс 16 ст. Статута ВКЛ 1529 і інш. Цяпер у складзе навук. б-кі Вільнюскага ун-та.

*Літ.*: Brensztejn M. Bibljoteka uniwersytecka w Wilnie do roku 1832. 2 wyd. Wilno, 1925; Петраускене З. Библиотека Вильнюсского университета. Вильнюс, 1970.

***Георгій Галенчанка.***

**бібліятэка Жыгімонта II Аўгуста**. Створана ў Вільні пры двары вял. князя літоўскага і караля польскага *Жыгімонта II Аўгуста* [1548—72]. Паводле памеру і складу не саступала б-кам інш. еўрап. двароў. Пачала збірацца да 1545. Кнігі набываліся праз спец. камісіянераў у краіне і за мяжой. Кнігазбор папаўняўся і за кошт шматлікіх дароў, у т.л. дзеячаў Рэфармацыі. Сярод іх экзэмпляр Бібліі, дасланы М.Лютэрам, выданні прац Ж.Кальвіна, Г.Булінгера, падараваныя аўтарамі. Збор апекавалі прыдворныя бібліятэкары Ян з Козьміна (1546—48), потым С. *Кашуцкі*, які закаталагізаваў юрыд. аддзел б-кі, і Л.*Гурніцкі* (з 1559). Паводле ацэнак сучаснікаў, б-ка налічвала ад 4 да 5 тыс. тамоў. У ёй пераважала літаратура па праве і гісторыі, была тэалагічная літаратура, выданні класічных аўтараў, кнігі па астраноміі і медыцыне. Вял. ўвага аддавалася эстэтычнаму выгляду кніг: аправы былі зроблены з дрэва, абцягнутага скурай, з пазалочанымі суперэксլібрысамі на верхнім вечку (вядомы 7 варыянтаў). У адпаведнасці з тастаментам уладальніка (1571) б-ку павінны былі падзяліць паміж Віленскім калегіумам езуітаў і касцёлам св. Ганны. Аднак пажаданне Жыгімонта II Аўгуста выканалі толькі часткова. Яго сястра каралева Ганна Ягелонка частку кніг (пераважна юрыд. літаратуру) перадала ў 1586 у б-ку Кракаўскага ун-та, частка трапіла ў рукі прыдворных. Некат. іх колькасць перайшла да Кацярыны Ягелонкі і потым увайшла ў склад збораў Жыгімонта III Вазы. Значная частка кніг апынулася ва ўладанні канцлера і гетмана Яна Замойскага, заснавальніка акадэміі ў Замосці. Кнігі па праве і медыцыне, якія захоўваліся ў Каралеўскім замку ў Варшаве, у 1656 у час польска-шведскай вайны трапілі ў Швецыю. У сярэдзіне 18 ст. некат. з кніг каралеўскай б-кі, што вернуты намаганнямі Яна III Сабескага, сталі часткай б-кі Залускіх, якая пасля падзелу Рэчы Паспалітай цалкам перавезена ў Пецярбург. Пасля Рыжскага дагавора 1921 яна вернута ў Варшаву ў Нац. б-ку і загінула ў час 2-й сусв. вайны. Цяпер значная частка кніг з б-кі Жыгімонта Аўгуста, атрыманая ў асноўным з Б-кі ардынацыі Замойскай, захоўваецца ў Нац. б-цы ў Варшаве. Выданні з каралеўскай б-кі захаваліся таксама ў фондах інш. бібліятэк Польшчы, Літвы, Расіі, Швецыі, Германіі і інш. краін Еўропы. Вядомы 960 выданняў (590 тамоў) знакамітага кнігазбору (улічаны ў каталогу А. Кавецкай-Грычовай).

*Літ.:* Hartleb K. Biblioteka Zygmunta Augusta: Studium z dziejów kultury królewskiego dworu. Lwów, 1928; Kawecka-Gryczowa A. Biblioteka ostatniego Jagiellona: Pomnik kultury renesansowej. Wrocław etc., 1988.

***Тацццяна Рошчына.***

**бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора.** Існавала з сярэдзіны 11 ст. да 1579 пры Полацкім Сафійскім саборы. У 12 ст. папаўненню яе фондаў садзейнічала асветніца Ефрасіння Полацкая. У б-цы зберагаліся рукапісныя кнігі пераважна рэліг. зместу, арыгінальныя помнікі, у т.л. творы мясц. паходжання: летапісы, «Жыціе Ефрасінні Полацкай». Разрабавана ў час Інфлянцкай вайны 1558—82. 10 рукапісаў на слав. мове з гэтай б-кі зберагаюцца ў Нац. б-цы ў Варшаве (у т.л. «Зборнік» 1500—01, спіс



Пскоўскага 1-га летапісу 1548), «Евангелле вучыцельнае» сярэдзіны 16 ст. — у б-цы Львоўскага ун-та.

*Літ.*: Щапов Я.Н. Библиотека Полоцкого Софийского собора и библиотека Академии Замойской // Культурные связи народов Восточной Европы в XVI в.: Проблемы взаимоотношений Польши, России, Украины, Белоруссии и Литвы в эпоху Возрождения. М., 1976.

***Вера Цыбуля.***

**бібліятэка Храптовічаў.** Існавала з 2-й пал. 18 ст. да пач. 20 ст. ў родавым маёнтку Шчорсы. Заснавана І.Храптовічам, які набываў кнігі і рукапісы ў час сваіх падарожжаў па Еўропе. Калекцыя еўрап. выданняў 16—17 ст. набыта з б-кі рымскага кардынала І.Імперыяле. Пасля 1768 набыты кнігазбор заснавальніка Варшаўскай публічнай б-кі біскупа Ю.Залускага. Папоўнілася за кошт збораў з закрытых у канцы 18 — пач. 19 ст. кляштараў. Пасля смерці Храптовіча (1812) кнігазбор перайшоў да яго сыноў Адама, які працягваў папаўняць б-ку старадрукамі і новымі выданнямі, і Іераніма. Затым кнігазбор належаў іх пляменніку Міхаілу, рас. дыпламату ў Неапалі, Бруселі, Лондане. Ад яго б-ка перайшла да сына сястры М.А.Храптовіча-Буцянёва, які разам са сваім братам, уладальнікам Шчорсаў К.А.Храптовічам-Буцянёвым, упарадкаваў б-ку, а гісторык С.Л.Пташыцкі склаў і выдаў (1899) вопіс рукапісаў б-кі (1-ы вопіс б-кі складзены ў 1786 паэтам М.Вольскім). Паводле розных крыніц, б-ка налічвала больш за 15 тыс. асобнікаў. Бібліятэкарамі ў Шчорсах працавалі Ф.Баброў, Вольскі, байкапісец А.Глінскі, этнограф Я.Чачот, яе фондамі карысталіся А.Міцкевіч, І.Лялевель, У.Сыракомля, К.Даніловіч, Я. і А.Снядэцкія, Ф.Малеўскі, М.Маліноўскі. У 1913 браты К. і М.Храптовічы пры дапамозе М.Доўнар-Запольскага перадалі кнігазбор на часовае (дэпазітнае) захаванне Кіеўскаму ун-ту (4500 назваў кніг і рукапісаў). У Шчорсах засталася мастацкая публіцыстыка, якая загінула ў 1916 і 1939. З Кіева збор Храптовічаў быў двойчы эвакуіраваны: у 1915—16 у Саратаў, у 1941—44 ва Уфу. У 1927 Б.Х. перададзена ва Усенародную б-ку Украіны пры Украінскай АН (цяпер б-ка імя У.І.Вярнадскага Нац. АН Украіны).

Рукапісная частка кнігазбору захоўваецца асобнай калекцыяй у аддзеле рукапісаў б-кі. Яна прадстаўлена рукапісамі 15—19 ст., пераважна польскімі і лацінскімі. З улічаных у вопісе Пташыцкага 129 рукапісаў збераглося 112, астатнія страчаны. У 1985 кніжная частка кнігазбору заінвентарызавана, у выніку чаго было ўлічана 2005 асобнікаў, значная частка кніг страчана. Большасць з захаваных кніг апраўлена ў пераплёты са скуры, зробленыя ў 16—18 ст. Амаль на ўсіх кнігах ёсць экслібрысы (ярлыкі з тэкстам ці адбітак штэмпеля чорнага і чырвонага колераў Храптовічаў), надпісы, наклейкі Храптовічаў і папярэдніх уладальнікаў. Умоўна збор складаецца з 2 частак: зах.-еўрап. выданні 15—18 ст. і польскія 16—19 ст. Сярод зах.-еўрап. кніг творы антычных аўтараў, старажытнагрэчаскіх філосафаў, гісторыкаў, маст. і рэліг. л-ра з друкарняў Венецыі, Базеля, Лейпцыга знакамітых друкароў Плантэнаў, Флабэнаў. Польская частка ўключае гіст. зб-кі польскіх храністаў, выданні свецкага характару 16—пач. 17 ст. з друкарняў Варшавы, Кракава, Toруня, Львова. Сярод іх першыя выданні М.Рэя, Я.Каханоўскага, працы Б.Папроцкага, А.Гваньіні, М.Кромера. Ёсць віленскія выданні 16 ст. з друкарняў Я.Карцана, Д.Ланчыцкага, гарадзенскія выданні 18 ст., полацкія пач. 19 ст. У зборы 3 інкунабулы, 39 палеатыпаў. Разам з кніжнаю часткаю захоўваецца яе рукапісны картачны каталог, складзены Пташыцкім.

Увесь час знаходжання Б.Х. у Кіеве кіраўніцтва, навук. і культ. грамадскасць Беларусі дамагалася вяртання кнігазбору на радзіму. Яшчэ ў снеж. 1924 Нар. камісарыят асветы БССР звяртаўся да Нар. камісарыята асветы УССР з просьбай вярнуць Б.Х. Прэзідыум Наркамасветы УССР згадзіўся з просьбай, але па невядомых прычынах гэта не было зроблена. У 1926 рэзалюцыю аб вяртанні б-кі на Беларусь прыняў 1-ы з'езд даследчыкаў бел. археалогіі і археаграфіі. У 1990-я г. рабіліся захады па вяртанні Б.Х. Але ў 1995 Мін-ва замежных спраў Украіны накіравала ноту Мін-ву замежных спраў Беларусі, у якой было адмоўлена ў перадачы б-кі на Беларусь. З таго часу распрацоўваецца праграма захавання і сумеснага выкарыстання Б.Х.

*Літ.*: Пташицкий С.Л. Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича: Краткие сведения о собрании рукописей. М., 1899; Эрнст Н. Библиотека графов Хрептовичей // Рус. библиофил. 1914. № 6; Працы Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі 17—18 студзеня 1926 г. Мн., 1926; Рошчына Т., Фурс А. Бібліятэка Храптовічаў // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. Мн., 1996.

***Анатоль Фурс.***

**бібліятэкі** (грэч. bibliothēkē ад biblion кніга + thēkē сховішча), кнігазборы для грамадскага, калектыўнага або прыватнага карыстання; дзярж. ці грамадскія ўстановы, якія функцыянуюць на аснове такіх збораў (бібліятэчных фондаў), забяспечваюць іх захаванасць, папаўненне (камплектаванне), абслугоўванне чытачоў. У ВКЛ першапачаткова складваліся пры цэрквах і манастырах. Найб. старажытная — *бібліятэка Полацкага Сафійскага сабора*. Абавязковы набор богаслужэбных і чэцціх кніг у правасл. царкве вызначаў статут, або тыпікон (у 11—13 ст. Тыпікон вял. царквы, для манастыроў — Студыйскі статут; з 14 ст. — Іерусалімскі статут). У царкоўных Б. захоўваліся і кнігі свецкага зместу. У 18 ст. царк. кнігазбор у сярэднім складаўся з 10—30 кнігадрукаў і рукапісаў, бедныя храмы замест патрэбнага набору часам мелі толькі 1—2 кнігі. Асноўны масіў кніг захоўваўся ў Б. манастырскіх (кляштарных). Напрыклад, у 1494 б-ка Слуцкага Троіцкага манастыра налічвала 45 кніг, Супрасльскага манастыра ў 1557 — 211 кніг, Пінскага Лешчанскага манастыра — 34 кнігі. У канцы 16—18 ст. склалася сістэма Б. ордэна базыльян, асновай якіх найчасцей былі Б. праваслаўных манастыроў. Дзейнасць базыльянскіх Б. (да пач. 19 ст. іх налічвалася больш за 60) рэгламентаваў статут, складзены ў 1617 мітрапалітам І.Руцкім. Пасада бібліятэкара (ён жа і архіварыус) даверыялася спец. манаху (хартафілаксу), які адказваў за захаванасць фонду і прысягаў, што не будзе кніг ні прадаваць, ні закладаць, ні пазычаць. Адзін з пунктаў статута патрабаваў, каб бібліятэкар пільна сачыў за тым, якіх кніг яшчэ бракуе ў манастырскім кнігазборы і прымаў захады па іх камплектаванні. Абавязкова вёўся каталог з пазначэннем месца кнігі на паліцы (шыфру); расстаноўка фонду ўжывалася тэматычная, а ў кожным тэматычным раздзеле — фарматная (вылучалі 4 фарматы). Цэнтральныя Б. базыльян былі ў Віленскім Троіцкім, Жыровіцкім і Супрасльскім манастырах. Кожная з іх налічвала некалькі тысяч



кніг, а таксама нот, карт, эстампаў. Невялікія Б. былі практычна ва ўсіх базыльянскіх манастырах. Паводле вопісаў маёмасці 1822—24, у Сялецкім і Сухавіцкім манастырах (абодва ў Рэчыцкім пав.) было адпаведна 102 і 103 тамы, Мірскім, Дараўскім і Лаўрышаўскім (усе Навагародскі пав.) — адпаведна 34, 207 і 600 тамоў.

Вял. кнігазборы мелі каталіцкія кляштары: кармелітаў у Глыбокім, дамініканцаў у Гародні і Шклове, бернардзінцаў у Слоніме, аўгусцінцаў і трынітарыяў у Берасці. Найб. значныя пратэстанцкія Б. былі ў Слуцкім і Смаргонскім кальвінскіх зборах (апошняму ахвяраваў у 1611 свае кнігі староста чарэйскі і прапойскі К.Зяновіч).

З 16 ст. існавалі Б. навуч. устаноў. Найбольшай з іх была *бібліятэка Віленскай акадэміі*, каля 40 тыс. кнігадрукаў захоўвала б-ка Полацкага езуіцкага калегіума. У 18 ст. існавалі Б. езуіцкіх, базыльянскіх і піярскіх вучылішчаў у Гародні, Берасці, Менску, Слуцку, Навагародку, Бабруйску, Мазыры, Пінску, Паставах, Халопенічах і інш.

Першыя пісьмовыя звесткі аб прыватных Б. у ВКЛ датуюцца канцом 15—пач. 16 ст. Вядома б-ка канцлера ВКЛ А.*Гаштольда*, які заказваў кнігі перапісчыкам (напрыклад, Мацею з Дарагічына ў Кракаве), меў кнігі лац., польскія і чэшскія, а найб. кірылічных славянскіх. Знакамітым рэнесансавым кнігазборам была віленская *бібліятэка Жыгімонта II Аўгуста*. Самымі вял. прыватнымі Б. 16—18 ст. у ВКЛ былі *бібліятэкі Радзівілаў*, *бібліятэкі Сапегаў*, *бібліятэка Храптовічаў*, слуцкіх князёў Алелькавічаў, магнатаў Солтанаў і інш. У 16—18 ст. склалася некалькі вял. прыватных Б. духавенства: мітрапалітаў Г.*Календы*, Ф.*Грабніцкага*, полацкага архіепіскапа Я.*Смагаржэўскага*, віленскага біскупа В.*Пратасевіча*, архіепіскапа тураўскага і пінскага Грыгорыя [рэестр яго б-кі (51 славянская і 39 лац. кніг) склаў у 1631 Сільвестр Каглоба]. Меншымі былі кнігазборы гараджан і ніжэйшага духавенства — берасцейскага мешчаніна Гурына Фёдаравіча (1624), віленскага бурмістра Сцяпана Лябедзіча (1649). Некалькі рукапісных і друкаваных кніг упамінаецца ў тастаменце святара Юр'еўскай царквы ў Вільні Георгія (1522).

*Літ.*: Bibljoteki wileńskie. Wilno, 1932; Владимиров Л.И. Очерки по истории книги и библиотек в Литве до 1917 г. Вильнюс, 1965; Библиотечное дело в Белоруссии (XVI в.—1917 г.): Библиогр. указ. / Сост. Л.Н.Новицкая. Мн., 1982; Topolska M.B. Biblioteki w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI i pierwszej połowie XVII w. // Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej. 1983. Z. 20; Яе ж. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renesansu i baroku. Wrocław, 1984; Kisarauskas V. Lietuvos knygos ženklai, 1518—1918. Vilnius, 1984; Голенченко Г.Я. Крупные светские частновладельческие библиотеки Белоруссии и Литвы второй половины XVI—середины XVII в. // Федоровские чтения. 1982. М., 1987; Kawecka-Gryczowa A. Biblioteka ostatniego Jagiellona. Wrocław etc., 1988; Ochmański J. Najdawniejsze księgozbiory na Litwie od końca XIV do połowy XVI wieku // Europa Orientalis: Polska i jej wschodni sąsiedzi od średniowiecza do współczesności. Toruń, 1996; Матэрыялы Другіх кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Рэчы Паспалітай» (Мінск, 15—16 верасня 2000 г.). Мн., 2002.

***Мікола Нікалаеў.***

**бібліятэкі Радзівілаў.** Існавалі ў шматлікіх маёнтках і палацах роду. Прадстаўнікі нясвіжскай (каталіцкай) і біржанскай (пратэстанцкай) ліній у сваіх маёнтках збіралі кнігі, засноўвалі родавыя бібліятэкі.

Пачатак кнігазборам паклаў М.*Радзівіл* Чорны ў 16 ст., які заснаваў у Берасці друкарню, меў у палацы багаты кнігазбор, якім маглі карыстацца пісьменнікі і тэолагі, што гуртаваліся вакол яго. Ёсць звесткі, што ў склад б-кі ўвайшлі кнігі К.Шыдлавецкага, дачка якога Альжбета была жонкай Мікалая Радзівіла. Радзівіл Чорны лічыцца заснавальнікам і б-кі Нясвіжскага замка — галоўнага і самага вялікага сярод радзівілаўскіх і найбуйнейшага ў Рэчы Паспалітай прыватнага кнігазбору (паводле інш. крыніц, заснавальнік — М.К.*Радзівіл* Сіротка). Дзякуючы шырокім культурным сувязям уладальнік камплектаваў б-ку рукапісамі і выданнямі, прывезенымі з Еўропы, кнігамі з друкарняў ВКЛ, у т.л. з асабістых друкарняў у Нясвіжы і Берасці. Фонд б-кі павялічыў яго сын Радзівіл Сіротка (б-ка перайшла яму і яго брату Юрыю ў спадчыну), які ў час адукацыі за мяжой прысылаў у Нясвіж шмат кніг. Жонка К.С.*Радзівіла* Ганна Кацярына з Сангушкаў прынесла ў пасаг вял. кнігазбор з г. Белая на Падляшшы (т.зв. «Бельская бібліятэка»), які захоўваўся асобным аддзелам. Таксама асобным зборам захоўвалася т.зв. «Флемінгаўская бібліятэка», набытая Радзівіламі пасля смерці яе ўладальніка графа Я.Г.Флемінга (1728). Пасля смерці сваёй уладальніцы ў замак вярнулася частка прыватнай б-кі Канстанцыі Сапегі з роду Радзівілаў (1697—1756), сястры М.К.*Радзівіла* Рыбанькі. К.С.*Радзівіл* Пане Каханку штогод выдаткоўваў на ўтрыманне б-кі 200 чырвоных злотых. Найб. ранні з вядомых каталогаў б-кі складзены ў 1651 Янам Гановічам для А.Л.*Радзівіла* і ўтрымліваў каля 650 кніг (захоўваецца ў Б-цы Польскай АН у Курніку). У канцы 17 ст. зроблены 1-ы экслібрыс. У 1749 для б-кі пабудаваны адмысловы будынак. У 1770 б-ка налічвала больш за 20 тыс. тамоў, у яе складзе былі інкунабулы, палеатыпы, антычная і рэнесансавая л-ра, гіст. і юрыд. выданні, палемічныя рэфармацыйныя творы, большай часткай франц. выданні, менш — лацінскія і польскія. Мела вял. рукапісны фонд.

З самага пачатку існавання б-ка не толькі папаўнялася, але і несла страты. Кардынал Ю.*Радзівіл* шмат кніг ахвяраваў віленскім езуітам. Значная колькасць каштоўных рукапісаў, архіўных матэрыялаў, кніг была канфіскавана ў 1764, калі яе ўладальнік Радзівіл Пане Каханку быў у эміграцыі. Канфіскаты цяпер захоўваюцца ў розных б-ках Польшчы, у т.л. ў Курніку, Варшаве і інш.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 Нясвіжская б-ка паводле загаду Кацярыны II дастаўлена А.І.Бібікавым у С.-Пецярбург і перададзена Акадэміі навук. У жн. 1772 яна як асобны кнігазбор паступіла ў б-ку АН, налічвала 14 892 кнігі ў 96 скрынях (без уліку гравюр, планаў, нот). У 1814 дублеты з фонду Нясвіжскай б-кі (1697 назваў у 2545 тамах) адпраўлены ў Маскоўскі ун-т для аднаўлення б-кі, што была знішчана ў 1818. Таксама ёсць звесткі пра перадачу часткі кніг у С.-Пецярбургскую духоўную акадэмію. У 1827 у зноў створаны універсітэт у Гельсінгфорсе (Хельсінкі) перададзены дублеты з Нясвіжскай б-кі па тэалогіі і юрыспрудэнцыі (на сённяшні дзень выяўлена 820 выданняў). Нясвіжскую б-ку не захавалі ў б-цы АН у выглядзе адзінага комплексу. Рэшткі яе панеслі страты ад пажару ў 1988. Значная колькасць каштоўных кніг была вывезена з Нясвіжскага замка ў кастр. 1812. У 19 ст. створана новая Нясвіжская б-ка, у якой архіварыусамі і бібліятэкарамі працавалі У.Сыракомля, М.Маліноўскі,



М.Богуш-Шышка. У 1864 у яе паступілі кнігі з закрытых у Нясвіжы кляштараў бернардзінцаў і бенедыкцінак. У 1880 Антон і Марыя Радзівілы перавезлі з Берліна б-ку, якая стала гал. часткай новага Нясвіжскага збору кніг і мела асобны экслібрыс. Нясвіжская б-ка была часткова разрабавана ў час 1-й сусв. вайны. У 1940 апошняя б-ка Радзівілаў перададзена АН БССР, у 2-ю сусв. вайну разрабавана і вывезена ў Германію. У 1945—46 разрозненыя часткі яе вернуты на Беларусь і цяпер захоўваюцца ў Мінску ў Нац. б-цы Беларусі, у Цэнтр. навук. б-цы Нац. АН Беларусі, Прэзідэнцкай б-цы, Нац. гіст. архіве Беларусі. Вядомы 6 экслібрысаў Нясвіжскай б-кі.

У 16 ст. пачалі складвацца буйныя кнігазборы і ў іншых уладаннях Радзівілаў, у т.л. ў Клецку, які належаў кн. А.*Радзівілу* (памёр у 1592). Кнігазбор у Алыцы быў створаны С.*Радзівілам*, вядомым паліглотам і бібліяфілам, братам М.К.Радзівіла Сіроткі. Вял. б-ка ў канцы 16—1-й пал. 17 ст. належала біржанскай галіне Радзівілаў. Перыферыйныя кнігазборы размяшчаліся ў некаторых дварах, дзе часам пражывалі іх уладальнікі (напр., у Дзяляцічах), аднак асн. фонды былі сканцэнтраваны ў Слуцку, Біржах, Кейданах і Любчы.

У палацы ў Кейданах Я.*Радзівіл* (1612—55) стварыў б-ку, бібліятэкарам у якой працаваў Райнольд Адамс. У зборы захоўваліся каштоўныя друкі і рукапісы, у т.л. і вядомы *Радзівілаўскі летапіс*, які быў атрыманы ў дар ад Станіслава Зяновіча.

Слуцкая (потым Біржанская) б-ка Радзівілаў існавала ў 16—1-й пал. 17 ст. Б.*Радзівіл*, харужы ВКЛ, ад бацькі Я.*Радзівіла* (1579—1620) і яго першай жонкі Соф'і з Алелькавічаў, княжны Слуцкай, атрымаў у спадчыну адну з самых значных рэфармацыйных б-к, якая была ў наступным павялічана за кошт кнігазбору Я.Радзівіла з Кейданаў. У 1576—78 ёю карыстаўся М.*Стрыйкоўскі*, які выкарыстаў знойдзеныя матэрыялы пры стварэнні свёй «Хронікі». Частка кнігазбору (каля 500 тамоў, у т.л. рукапісы, выданні 16 ст., атласы 17 ст.) у 1668 завешчана далёкаму сваяку Б.Радзівіла — Фрыдрыху Вільгельму, курфюрсту брандэнбургскаму і герцагу Прусіі, з умовай захавання б-кі ў Караляўцы ў палацавай б-цы. У 1673 у Караляўцы выдадзены ў 2 тамах каталог кніг, завешчаных Б.Радзівілам (створаны герцагскім бібліятэкарам М.С.Грабе Старэйшым, дапрацаваны і перавыдадзены ў 1712 М.С.Грабе Малодшым).

Ваявода віленскі, калекцыянер і бібліяфіл М.Г.*Радзівіл* сабраў у набытым ад М.К.Агінскага Нябораве б-ку, якая налічвала каля 6 тыс. асобнікаў. У час сваіх падарожжаў па Германіі, Францыі, Англіі ён набываў шмат кніг у антыкварыятах і на аўкцыёнах, цэлыя кнігазборы знакамітых бібліяфілаў. У кнігазбор трапілі таксама выданні з інш. радзівілаўскіх б-к. У Нябораўскай б-цы лепш за ўсё была прадстаўлена мастацкая л-ра, гісторыя, мастацтва, палоніка 16—18 ст. У б-цы была значная колькасць асобнікаў цікавага паходжання: Ж.Гральe, Людовіка XIV, мадам дэ Пампадур, караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і інш. Большасць кніг, асабліва французскія, мелі багатыя мастацкія аправы. М.Г.Радзівіл ужываў некалькі суперэкслібрысаў і 2 геральдычныя экслібрысы. Ён сабраў таксама б-кі ў сваіх палацах у Варшаве і Крулікарні. Яго жонка Алена з Пшаздзецкіх стварыла асабістыя кнігазборы ў Няборавe і Аркадыі, у якіх была большай часткай замежная л-ра па гісторыі, праве, філасофіі, а таксама класічная і франц. сентыментальная л-ра. К.Радзівіл (1821—86) павялічыў кнігазбор выданнямі па ўсеагульнай гісторыі. У 1849 у Нябораў перавезена б-ка з Крулікарні. Нябораўскую б-ку значна збядніў З.Радзівіл (1822—92), які прадаў самую каштоўную яе частку на аўкцыёне ў Парыжы ў 1866. У 1945 у Няборавe створаны аддзел Нац. музея ў Варшаве.

Захавалася больш за 15 вопісаў Б.Р., якія знаходзяцца ў Мінску (Нац. гіст. архіў Беларусі, Нац. б-ка Беларусі), Варшаве (Гал. архіў стараж. актаў), Б-цы Польскай АН у Курніку, Самары.

*Літ.*: Grabe M.S. Catalogus librorum quarumliber facultatum a... Boguslao Radzivil... Electorali Regiomonti Rorussorum est. Bibliothecae legato donatorum 1668. Regiomonti, 1673; Голенченко Г.Я. Крупные светские частновладельческие библиотеки Белоруссии и Литвы второй половины XVI—середины XVII вв. // Федоровские чтения 1982. М., 1987; Николаев Н.В. Несвижская библиотека Радзивиллов // Книга в России XVIII—середины XIX в.: Из истории Библиотеки Академии наук. Л., 1989; Badania księgozbiorów Radziwiłłów: Materiały międzynarodowej sesji. Olsztyn, 6—7 października 1994 r. Warszawa, 1995; Ярошевич-Переславцев З. Книжные собрания Радзивиллов: История исследования в Польше // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 1998. Вып. 3; Рошчына Т.І. Перамешчаныя беларускія кнігазборы: Бібліятэка Радзівілаў (Нясвіж—Санкт-Пецярбург—Хельсінкі) // Выяўленне, сумеснае выкарыстанне і вяртанне архіўных бібліятэчных і музейных каштоўнасцей, якія захоўваюцца ў замежных краінах. Мн., 1999 (Вяртанне-6); Собрание польских старопечатных книг в славянском фонде БАН. Вып. 1. Несвижская ординатская библиотека Радзивиллов. СПб., 1999.

***Тацццяна Рошчына.***

**бібліятэкі Сапегаў**. Існавалі ў 16—18 ст. у Слоніме, Ружанах (Пружанскі р-н), Дзярэчыне (Зэльвенскі р-н), Кодані (цяпер Польшча). Другі па велічыні прыватны кнігазбор на Беларусі (пасля *бібліятэкі Радзівілаў*). Пачатак кнігазбору дала ружанская б-ка канцлера вял. літоўскага Л.Сапегі, якую павялічыў яго сын Казімір Леў. У 18 ст. ружанскі збор пераведзены ў Дзярэчын і значна папоўнены Аляксандрам, Міхалам, Францыскам Сапегамі. Б-ка ў Кодані вырасла дзякуючы бібліяфільству канцлера вял. літоўскага Яна Фрыдэрыка і Аляксандра Сапегаў. У ёй найб. поўна прадстаўлена л-ра па юрыспрудэнцыі, гісторыі, паэзіі, мовазнаўстве, геаграфіі, тэалогіі. Акрамя кнігазбору ў ёй былі архіў стараж. актаў, калекцыя гравюр. У 1644—45 вял. колькасць кніг К.Л.Сапега ахвяраваў б-цы Віленскай езуіцкай акадэміі. У 1810 А.Сапега коданскую б-ку перадаў варшаўскаму Т-ву аматараў навук, у 1834 дзярэчынская б-ка і архіў вывезены ў С.-Пецярбург. Захаваліся вопісы на асобныя часткі Б.С., экслібрысы некаторых уладальнікаў кнігазбору. Большая частка Б.С. зберагаецца ў Расійскай нацыянальнай б-цы (Санкт-Пецярбург), б-цы Вільнюскага ун-та, рэшта — у б-цы Расійскай АН (Санкт-Пецярбург), б-цы Варшаўскага ун-та і інш. сховішчах.

*Літ.*: Иконников В.С. Опыт русской историографии. Киев, 1891. Т. 1, кн. 1. С. 784, кн. 2. 1892. С. 1237—1238; Нікалаеў М. Аблічча сярэдневяковай бібліятэкі: Кнігазборы Сапегаў // Мастацтва Беларусі. 1985. № 7.

***Мікола Нікалаеў.***

**Бізіо** (Bisio) Стафан Лаўрын (каля 1720 або 14.2.1724, г. Венецыя—пасля 1787), вучоны-медык. Д-р медыцыны і філасофіі (1746). Вучыўся ў Павіі, дзе атрымаў доктарскую ступень. Каля 1748



стаў прафесарам Лекарскага калегіума ў Турыне. У 1763 запрошаны А.Ябланоўскай дамашнім лекарам у Сямятычы. З 1768 лекар К.С.Радзівіла Пане Каханку. У 1770 правёў у Нясвіжы паталагаанатамічную секцыю, якую апісаў у спец. брашуры. Каля 1772 пераехаў у Вільню, дзе працаваў лекарам пры Віленскай акадэміі. У 1779—80 у Львове, у 1781 выехаў у Італію. Пасля заснавання ў Вільні медыцынскага калегіума (1781) запрошаны туды прафесарам. У 1781 заняў кафедру тэорыі ўрачэбнай анатоміі (пазней — фізіялогіі і анатоміі). Удзельнічаў у стварэнні анатамічнага кабінета Гал. школы ВКЛ, праводзіў эксперыменты на жывёлах. У 1787 пакінуў кафедру і вярнуўся ў Італію. Аўтар мед. прац.

***Валерый Пазднякоў.***

**Білевічы**, Б я л е в і ч ы, шляхецкі род уласнага герба «Магіла». Родапачынальнік — жамойцкі баярын Жадзейка (упамінаецца ў 1418), які меў сыноў Білюса і Маствілу (родапачынальнік Маствіловічаў). Ад сына Білюса Доўгірда пайшоў род Доўгірдаў, ад Івашкі — род Станкевічаў, ад Юшкі і Андрушкі — Б. Родавыя маёнткі Б. ляжалі каля Расейнаў і Шаўкотаў. Першапачаткова вызнавалі каталіцтва, у 16 ст. аднымі з першых у ВКЛ прынялі лютэранства і кальвінізм, пасля прадстаўнікі роду пераходзілі ў каталіцтва.

Найб. вядомыя:

Я н (?—пасля 1546), сын Станіслава. Намеснік жамойцкі, цівун дырвянскі і біржанскі. Стаў першым паслядоўнікам вучэння М.Лютэра ў ВКЛ. Гэтаму садзейнічалі яго сувязі з прускім герцагам *Альбрэхтам*, на службу да якога ў 1543 быў прыняты яго сын Мікалай (па пратэкцыі віленскага ваяводы Я.Ю.Глябовіча). Па даручэнні герцага Ян апекаваўся першым тэолагам-лютэранінам у ВКЛ А.*Кульвяцом*. У 1546 герцаг прасіў Яна знайсці некалькі вучоных мужоў, што ведалі літ. мову, для заснавання ў Прусіі евангелічных парафій для літоўцаў. Сярод пасланых у Прусію Янам дзеячаў, відаць, быў і М.*Мажвідас*.

В о й ц е х (?—1599?), сын Юрыя. Цівун шадаўскі ў 1569—99, маршалак гаспадарскі ў 1592—93.

Т э а д о р (?—пасля 1697), сын Стафана. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, дзе выдаў працу «Трайная філасофія, рацыянальная, натуральная і маральная» («Triplex philosophia, rationalis, naturalis et moralis»). У 1674 удзельнічаў у абранні на трон Яна III Сабескага, у хуткім часе стаў стольнікам жамойцкім, пасля цівун вялікадырвянскі і суддзя земскі жамойцкі. У 1677—78 падарожнічаў па Германіі, Чэхіі, Італіі, Францыі, Галандыі, Англіі, вёў падрабязны дзённік (частку апублікаваў Б.Альшэвіч у 1929 у Познані). У 1697 удзельнічаў у абранні на трон Аўгуста II.

Т а д э в у ш (каля 1728—12.8.1788), сын Аляксандра Ежы. Вучыўся ў Караляўцы. Шамбялян двара Аўгуста III, стараста вайнюцкі, цівун эйрагольскі і вялікадырвянскі; 3 разы выбіраўся дэпутатам Трыбунала ВКЛ. У 1771 далучыўся да Барскай канфедэрацыі і стаў маршалкам жамойцкім. Разам з братам Тэадорам узначаліў у Жамойці рух у падтрымку барскіх канфедэратаў, пасля перайшоў на бок караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Быў паслом на соймы 1776 і 1780 (?). Мсціслаўскі кашталян у 1783—86 і ваявода ў 1786—88, кашталян троцкі з 1788, чл. Пастаяннай Рады.

*Літ.*: Памятники философской мысли Белоруссии XVI—первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 154—163; S a v i š č e v a s E. Bilevičių kilmė ir genealogija (XV—XVI a.) // Lituanistica. 2001. № 4.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бірала** Альберт Апанасавіч (16.7.1932, г. Чэрвень—22.11.1974), беларускі філосаф. Канд. філас. навук (1959). Скончыў БДУ (1955). З 1961 дацэнт кафедры філасофіі і логікі БДУ. Даследаваў погляды утапічных камуністаў Францыі 18 ст. (Мелье, Марэлі, Маблі), гісторыю філасофскай і грамадска-паліт. думкі Беларусі. Абгрунтаваў важны для метадалогіі гісторыі філасофіі Беларусі і Літвы т. зв. тэрытарыяльны прынцып, паводле якога неабходна вывучаць духоўныя каштоўнасці, створаныя дзеячамі культуры небеларусамі, калі іх жыццё і творчасць праходзілі на тэр. Беларусі і Літвы. Прааналізаваў найб. значныя і тыповыя прыродазнаўчыя, філасофскія, гісторыка-сацыялагічныя, этычныя, прававыя і паліт. вучэнні і ідэі канца 17—сярэдзіны 18 ст. Вызначыў светапогляд выдатных вучоных эпохі Асветы і даў яскравую карціну развіцця навукі канца 18—пач. 19 ст. на Беларусі і ў Літве, калі вывучэнне астраноміі, матэматыкі і біялогіі дасягнула сусветнага ўзроўню. Адзін з першых на Беларусі звярнуўся да вывучэння грамадскай псіхалогіі, спрабаваў на аснове аналізу мемарыяльнай л-ры рэканструяваць грамадскую псіхалогію шляхты Беларусі і Літвы ў сярэдзіне 18 ст., паказаў, што прагрэсіўныя традыцыі бел. грамадскай думкі і росквіт нац. культуры Беларусі бяруць свае вытокі ў канцы 18 ст., калі светапогляднай асновай прыродазнаўчых і грамадскіх навук сталі асветніцкія ідэі.

*Тв.*: Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—XVIII в. Мн., 1971; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (до 1917 г.). Мн., 1973 (у сааўт.); Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979.

***Яўгенія Петушкова.***

**Біржай** (Biržai), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр раёна ў Панявежскім пав., гл. *Біржы*.

**Біржанскае княства**, буйны маёнтак князёў Радзівілаў. Цэнтр — г. *Біржы*. Пачало складвацца з сярэдзіны 15 ст., калі Біржамі і вакольнымі землямі ўжо валодалі Радзівілы. Пасля атрымання ўладальнікам Біржанскага маёнтка М.Радзівілам Рудым тытула князя Свяшчэннай Рымскай імперыі (1547) ён пачаў звацца князем «на Біржах і Дубінках». Біржанскі маёнтак на працягу 16 ст. хутка павялічваўся шляхам скупкі навакольных зямель. Тэрмін «Б.к.» ўзнік, відаць, у пач. 17 ст. Землі княства ляжалі ў Вількамірскім і Упіцкім паветах. У склад Б.к. ўваходзілі мястэчкі Анікшты, Дубінкі, Кейданы і інш., шмат вёсак і фальваркаў. У 1674 у княстве больш за 50 фальваркаў, 529,5 валокі ворнай зямлі, у 1682 — 660,5 валокі, у 1708 — 1067 валок. У 1731 княства перайшло да нясвіжскай лініі Радзівілаў, у 1811 прададзена Тышкевічам. У Б.к. існавала ўласная адміністрацыя Радзівілаў. З сярэдзіны 16 ст. вядомы біржанскія старасты (намеснікі), з сярэдзіны 17 ст. — генеральныя аканомы, адміністратары і губернатары, якія падначальваліся радзівілаўскай адміністрацыі ў Слуцку, а пасля ў Нясвіжы. Ніжэйшы ўзровень адміністрацыі складалі падстарасты, цівуны, войты, дзесятнікі. У княстве існаваў патрыманіяльны суд Радзівілаў, які судзіў сялян, залежную шляхту, баяр, яўрэяў, караімаў і інш.; меў права выносіць смяротныя прыгаворы. Залежная ад Радзівілаў біржанская шляхта адпраўлялася на вайну не ў складзе павятовых харугваў, а ўтварала асобную Біржанскую харугву.

*Літ.*: Tyszkiewicz E. Birże: Rzyt oka na przeszłość miasta, zamku i ordynacyi. St.-Petersburg, 1869; Yčas J. Biržai: Tvyrtovė, miestas ir kunigaikštystė. Kaunas, 1931; Biržų dvaro teismo knygos 1620—1745. Vilnius, 1982.

***Валерый Пазднякоў.***

**Біржанскі замак**, галоўная рэзідэнцыя біржанскай галіны Радзівілаў у канцы 16—17 ст. Знаходзіўся ў г. *Біржы*. Будаваўся замак у 4 этапы. На працягу 1586—89 К.Радзівіл Пярун узвёў на правым беразе р. Аглуона (у сутоках з р. Апашча) квадратны ў плане бастыённы замак італьянскага тыпу. Для аховы замка і горада з паўн. і зах. бакоў створаны штучны стаў пл. 400 га (сучаснае воз. Шырвена). Замак меў роў і быў апяразаны 2 валамі. Даўжыня знешняга вала дасягала 900 м, вышыня 3 м. Унутраны вал (вышыня 5 м) меў 4 бастыёны, абсталяваныя сямю 2- і 3-узроўневымі казематамі, з якіх можна было весці прамую і перакрыжаваную стральбу. Бастыённы вал і сценкі вала абмураваны палявым каменем і цэглай. Каля 1589 ва ўсх. секцыі вала пабудавана 2-ярусная брама. У двары замка знаходзіліся драўляныя 3-павярховы палац, кальвінскі збор, арсенал, стайня, склады. Будаўніцтва вялося пад кіраўніцтвам Г.Кілера (Келера). З 1612 паводле загаду К.Радзівіла працы па абсталяванню замка прадоўжыліся паводле праекта К.Кайзера і пад кіраўніцтвам К.Петрыкоўскага. У 1623—25 у іх бралі ўдзел муляр Ганус з Заблудава і К.Скрабовіч. У 1619 у цэйхгаўзе Б.з. знаходзіліся гарматы (31 цяжкая, 23 палявыя, 16 лёгкіх). 7.9.1625 замак быў узяты шведскімі войскамі. У 1637 Я.Радзівіл пачаў рэканструкцыю замка на ўзор нідэрландскіх бастыёнаў. Кіравалі працай арх. А.Фрайтанг і інжынер Пірка. Новыя валы мелі вышыню 5—7 м, шырыню 19,4 м, роў быў глыбінёй 4—7 м пры шырыні 31,4 м. На тэр. замка былі разабраны драўляныя пабудовы. У 1654 да сістэмы абароны замка далучаны 4 рэдуты. Б.з. часткова разбураны ў 1657. У 1659 пачаўся чарговы будаўніча-рэканструкцыйны этап: рэканструявалі абарончыя ўмацаванні, завершана будаўніцтва 3-павярховага палаца (вялося з 1652). Яго фасад аздоблены 2 ярусамі аркад і спалучае рысы позняга рэнесансу і ранняга барока. У час Паўн. вайны 1700—21 Б.з. у 1704 разбураны шведамі, яго функцыянаванне як фартэцыі спынілася. У 1960—98 палац адбудаваны паводле праекта Н.Кіткаўскаса, дзейнічае краязнаўчы музей. Захаваліся валы і роў, замкавы мост і руіны брамы, парк. У 1978 паводле праекта Э.Пурлюса пачата рэканструкцыя абарончых збудаванняў.



**Біржанскі замак**. Выгляд палаца пасля рэстаўрацыі.

*Літ.*: Tyszkiewicz E. Birże — rzyt oka na przeszłość miasta, zamku i ordynacyi. St.-Petersburg, 1869; Yčas J. Biržai: Tvirtovė, miestas ir kunigaikštystė. Kaunas, 1931; Ciechanowiecki A. Z dziejów budowy zamku w Biržach // Kwartalnik architektury i urbanistyki. 1959. Z. 1—2; Kitkauskas N. Biržų antrosios pilies pylimai, fosa, redutas, tiltas // Architektūros paminklai. Vilnius, 1975. T. 3; Pinkus S. Biržų pilis. Vilnius, 1986; Wasilewski T. Budowa zamku i rezydencji Radziwiłłów w Biržach w latach 1586—1654 // Podług nieba i zwyczaju polskiego. Warszawa, 1988; Augustyniak U. Dwór i klientela Krzysztofa Radziwiłła (1585—1640). Warszawa, 2001.

***Алег Дзярновіч.***

**Біржы** (літ. Біржай, Віржаі, цяпер горад, цэнтр Біржайскага р-на Панявежскага пав., Літоўская Рэспубліка), горад ва Упіцкім пав. Троцкага ваяв., на воз. Шырвена, у сутоках рэк Апашча і Аглуона. Вядомы з 15 ст. Ужо ў 1455 Б. валодаў *Радзівіл Осцікавіч*, яго сын Ю.*Радзівіл* заснаваў біржанска-дубінкаўскую галіну роду *Радзівілаў*. У 1553 узведзены касцёл. Пры К.*Радзівіле* Перуне, які стала пасяліўся ў Б., у 1586 пачалося будаўніцтва *Біржанскага замка*.У пач. 16 ст. Б. — цэнтр воласці. У 1587 узведзены кальвінскі збор. 9.3.1589 Б. атрымалі магдэбургскае права. З 17 ст. існавала *Біржанскае княства*.У *вайну Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* горад стаў месцам збору войска ВКЛ на чале з Я.К.Хадкевічам напярэдадні бітвы пад Кірхгольмам 1605; у 1625 заняты і спустошаны шведскімі войскамі. У 1636 пабудаваны лютэранскі збор (з 1687 пры ім дзейнічала пачатковая школа), у 1663 у горадзе 218 двароў. У *Паўночную вайну 1655—60* моцна пацярпелі ў 1657. Пасля смерці Б.*Радзівіла* (1669) яго ўладанні перайшлі




**Біржы**. Гравюра Т.Макоўскага. Каля 1600.



да дачкі Л.К.*Радзівіл*. З 1695 у складзе *«Нойбургскіх маёнткаў»*. У 1686 дзейнічалі 4 рамесныя цэхі і купецкае брацтва. У *Паўночную вайну 1700—21* у Б. 26.2.1701 быў заключаны дагавор паміж Аўгустам II і Пятром I аб працягу вайны са Швецыяй; у перагаворах удзельнічаў Р.А.Агінскі, які дамовіўся з рас. царом аб падтрымцы ў барацьбе з Сапегамі. У сярэдзіне 1701 горад заняты шведамі. У 1731 Б. адышлі да нясвіжскай лініі Радзівілаў, пачалася барацьба паміж католікамі і пратэстантамі, якая адмоўна адбівалася на эканам. жыцці горада. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Tyszkiewicz E. Birże: Rzyt oka na przeszłość miasta, zamku i ordynacyi. St.-Petersburg, 1869; Bardach J. Żydzi w Birżach radziwiłłowskich w XVII—XVIII w. // Przegląd historyczny. 1990. Z; Ragauskienė R., Karvelis D. 1645 m. Juzefo Naronovičiaus-Naronskio Biržų kunigaikštystės ţemėlapis: Radvilų valdos istorija ir kartografija. Vilnius, 1997.

***Валерый Грынявецкі.***

**Біржышка́** (Biržiška) Вацлавас (2.12.1884, мяст. Векшняй, Літва—3.1.1956), літоўскі бібліёграф, гісторык культуры. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1909). З 1906 супрацоўнічаў у перыядычных выданнях. У 1918 працаваў у Літоўскім камісарыяце ў Маскве. З 1919 у Вільні, нарком асветы Сав. Літвы, нам. наркома асветы Літбела. З 1922 выкладаў права, бібліяграфію і гісторыю кнігі ў Каўнаскім ун-це, праф. (1924). У 1923—44 дырэктар б-кі Каўнаскага, а ў 1940—41 Вільнюскага ун-таў. У 1931—41 старшыня Літоўскага т-ва бібліятэказнаўцаў. З 1944 у эміграцыі, у 1946—49 праф. ун-таў у Гамбургу і Пінебергу, з 1949 жыў у ЗША. Рэдагаваў час. «Knygos» («Кнігі», 1922—26), «Bibliografijos žinios» («Бібліяграфічныя весці», 1928—43), зборнікі «Наша даўніна» («Mūsų senovė», № 6—10, 1937—40), «Літоўскую энцыклапедыю» (т. 1—10, 1933—44). Публікаваў архіўныя матэрыялы па гісторыі літ. культуры. Працы па гісторыі друку ВКЛ і Літвы, літ. культуры: «Нарыс гісторыі літоўскай кнігі» («Lietuviškų knygų istorijos bruožai», ч. 1, Каўнас, 1930), «З мінулага нашых газет» («Iš mūsų laikraščių praeities», Каўнас, 1932), «Гісторыя старажытнай літоўскай кнігі» («Senųjų lietuviškųjų knygų istorija», ч. 1—2, Чыкага, 1953—57). Склаў бібліяграфічныя паказальнікі «Літоўская бібліяграфія» («Lietuvių bibliografija», ч. 1—4, Каўнас, 1924—39, ахоплівае літоўскія выданні 1547—1910), «Александрынас» («Aleksandrynas», ч. 1—3, Чыкага, 1960—65, 2 выд. Вільнюс, 1990, ахоплівае літоўскія выданні да 1865), слоўнік «Літоўскія псеўданімы і крыптанімы» («Lietuviškieji slapyvardžiai ir slapyraidės», ч. 1—2, 1943).

*Тв.*: Mūsų raštų istorija. D. 1. Kaunas, 1927; Abraham Kulvietis. Pinneberg, 1947; Martin Mažvydas und seine Mitarbeiter. Heidelberg, 1948; Knygotyros darbai: Senųjų lietuviškų knygų istorija. T. 1. Chicago, 1953 (2 leid. Vilnius, 1998); Praeities pabiros. Brooklyn, 1960.

**Бірута** (?—сярэдзіна жн. 1382), вялікая княгіня літоўская, жонка *Кейстута*. Паходжанне яе няпэўнае. Паводле звестак Хронікі Быхаўца, якія большасцю даследчыкаў прымаюцца за міфічныя, Б., што паходзіла з Палангі ў Жамойцкай зямлі, — «девка богом своим, подлуг обычаю поганского пошлюбила чистость ховати, и сама была хвалена од людей за богиню». Пэўна толькі тое, што належала да дробнага баярскага або нават простага роду. У Паланзе яе ўбачыў Кейстут, закахаўся і прымусам узяў за жонку. Шлюб адбыўся пасля смерці вял. кн. Гедзіміна, не раней як у 1342. У час супрацьстаяння Ягайлы з Кейстутам у 1382 Б. знаходзілася спачатку ў Гародні, пазней — у Берасці, дзе вытрымала аблогу свайго зяця мазавецкага кн. Януша. Пасля паражэння мужа разам з ім і дзецьмі была зняволена ў Крэўскім замку. Паводле крыжацкіх звестак, паводле загаду Ягайлы і Скіргайлы была ўтоплена. Адначасова як помста за павешанага Кейстутам Вайдылу быў закатаваны яе дзядзька Відымонт. Паводле польскага даследчыка Я.Тэнгоўскага, нарадзіла 5 сыноў: *Войдата* (Івана), Бутаўта (Генрыка), *Вітаўта* (Аляксандра), *Таўцівіла* (Конрада), Жыгімонта і 4 дачок: Дануту (Ганну), Міклоўсу (Марыю), Рынгалу (Ганну) і невядомую па імю.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 32. М., 1975. С. 138, 142—143; Puzyna J. Kiedy urodził się Witold i co wiemy o rodzie jego matki // Miesięcznik heraldyczny. 1930. R. 9. S. 130—134; Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999. S. 196—200.

***Аляксей Шаланда.***

**біскуп**, духоўны сан у каталіцкай царкве, які адпавядае сану *епіскапа* ў праваслаўнай царкве. Часта біскупамі называлі епіскапаў грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы.

**бітва каля Сініх Вод 1362**. Адбылася паміж войскамі ВКЛ і аб'яднаным войскам Крымскай, Перакопскай і Ямбалукскай ордаў на р. Сінія Воды (Сінюха; левы прыток Паўд. Буга). Бітва была гал. падзеяй у наступленні ВКЛ на падпарадкаваныя татарам землі паўд.-зах. Русі. У 1362 вял. князь літоўскі Альгерд, выкарыстаўшы паляпшэнне адносін з Польскім каралеўствам і Нямецкім ордэнам, выступіў супраць ардынскага панавання ў міжрэччы Дняпра і Дуная. Войска было сабрана на Беларусі і значна папоўнена апалчэнцамі з Валыні і Кіеўшчыны. Восенню Альгерд з войскам рушыў з Кіева на зах. Падолле. Войска татараў, якое ўзначалілі князі Кутлубуг, Качубей (Качыбей, Хачыбей) і Дзімітр — «отчычы і дзедзічы Падольскай зямлі», дзяляліся на 3 палкі. Альгерд паставіў «шэсць палкоў» у лінію глыбокай абароны ў некалькі радоў, што не давала магчымасці варожай конніцы зайсці ў тыл. Татарскае войска вымушана было распачаць франтальны бой. Лёгка адбіўшы націск татараў, войскі Альгерда нанеслі ўдары ў цэнтр фронту і па флангах. Пасля нядоўгага бою супраціўленне татараў было зламана, яны ратаваліся ўцёкамі. У час пагоні быў захоплены абоз ардынцаў. Асабліва вызначыліся ратнікі з Навагародка, якімі камандавалі *Карыятавічы*. Пасля бітвы рэшткі татарскай конніцы падаліся на Дунай і далей у Дабруджу, а Альгерд пайшоў углыб іх уладанняў да вусцяў Дняпра і Паўд. Буга. У выніку гэтай перамогі падуладныя татарам землі зменшыліся, ВКЛ пашырыла сваю тэр. да вусцяў Дняпра і Днястра, замацавала ў сваім складзе Чарнігава-Северскія землі, Падолле, Валынскае і Кіеўскае княствы. Пачалося вызваленне ўсходнеслав. зямель ад ардынскага панавання.

*Літ.*: Антонович В.Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. Вып. 1. Киев, 1878; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987.

***Генадзь Сагановіч.***

**бітва на Альшаніцы 1527**. Адбылася 27 студз. на р. Альшаніца (правы прыток Дняпра паміж рэкамі Рось і Цясмін) паміж войскам ВКЛ і крымскімі татарамі. У снежні 1526 паводле турэцкага загаду 20—30 тыс. татараў на чале з царэвічам



Малаем напалі на ВКЛ і пустошылі землі да Турава і Пінска. У хуткім часе ў Астрогу сабраліся атрады князёў і паноў ВКЛ: Ю.С.Алелькавіча, Ф.А.Сангушкі, Ю.Радзівіла, І.М. і А.М.Вішнявецкіх, А.Ф.Чартарыйскага, А.Я.Неміровіча, А.Дашкевіча. На чале войска стаў найвышэйшы гетман ВКЛ К.І.Астрожскі. Татары былі нагнаны за 40 міль ад Кіева на р. Альшаніца. Войска ВКЛ ударыла на татарскі лагер знянацку на досвітку, так што крымчакі не здолелі дабрацца да коней з-за глыбокага снегу. Паводле М.Стрыйкоўскага, было забіта 24 тыс. татараў, 700 трапілі ў палон, вызвалена 40 тыс. палонных (паводле інш. звестак — 80 тыс.). Рэшта татараў была разбіта Дашкевічам і Алелькавічам каля Канева і Чаркасаў. Хоць звесткі крыніц пра колькасць татараў, відавочна, завышаныя, напад 1526—27 быў адным з буйнейшых, а перамога на Альшаніцы — адна з самых значных. Апісанне бітвы змешчана ў гіст. хроніках, ёй прысвяціў асобную брашуру Ё.Дэцый.

*Валерый Пазднякоў.*

**бітва на Басі 1660.** Адбылася 8 кастр. на р. Бася (прыток Проні, прыток Сажа) паміж войскамі Рэчы Паспалітай і Расіі ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У канцы вер. 1660 рас. ваявода кн. Ю.А.Далгарукаў размясціў свае войска лагерам каля в. Гаспода на р. Бася (непадалёк ад Чавусаў) у Аршанскім пав. На процілеглы бераг падышло войска Рэчы Паспалітай на чале з вял. гетманам ВКЛ П.Я.Сапегам, М.К.Пацам і С.Чарнецкім (каля 12 тыс. чал.). Некалькі дзён праз Басю ішла артылерыйская перастрэлка, з 4 кастр. адбываліся сутычкі. У ноч на 8 кастр. Сапега пераправіў усё войска за Басю і пастроіў яго ў баявы парадак. Яго сілы занялі цэнтр. пазіцыі, на правым флангу была размешчана дывізія Чарнецкага, на левым — Паца. Апоўдні рас. войскі выйшлі з лагера, адбыўся ўзаемны артабстрэл, пасля пачалася генеральная бітва. У цэнтры маскоўскае войска адкінула конніцу Сапегі, пабіла шмат пяхоты і, захапіўшы гармату і некалькі сцягоў, адышла да лагера. На абодвух флангах поспех быў на баку войск Рэчы Паспалітай, якія, разбіўшы рас. атрады, адагналі іх да лагера. Пад вечар усё рас. войска перайшло пад ахову лагерных умацаванняў. Харугвы Рэчы Паспалітай вярнуліся за Басю. У цэлым бітва была паспяховай для войска Рэчы Паспалітай, якое здабыло ў ходзе бітвы 7 гармат, 15 сцягоў; рас. войска страціла 427 чал. забітымі і 519 трапілі ў палон, у т.л. палкоўнік фон Букавен. Не маючы дастатковых сіл, каб узяць рас. лагер, войскі Рэчы Паспалітай перагарадзілі шлях, па якім са Смаленска дастаўляўся ў лагер харч. Сутычкі паміж бакамі працягваліся да 25 кастрычніка. На дапамогу асаджаным з боку Полацка падышло войска І.А.Хаванскага, што дало Далгарукаву магчымасць адступіць да Магілёва.

*Літ.*: Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995. С. 98—99.

*Валерый Пазднякоў.*

**бітва на Ворскле 1399.** Адбылася 12 жн. паміж войскамі ВКЛ на чале з вял. князем Вітаўтам і Залатой Арды на чале з ханам Цімур-Кутлукам і цемнікам Едыгеем каля р. Ворскла (левы прыток Дняпра, відаць, на тым самым полі, дзе ў 1709 адбылася Палтаўская бітва). Саюзнікамі Вітаўта былі некалькі тысяч татараў, прыведзеных ханам Тахтамышам. Вітаўт абяцаў Тахтамышу дапамогу ў захопе ханскага трона Залатой Арды, за што Тахтамыш павінен быў выдаць яму ярлык на Маскоўскае вял. княства, Ноўгарад, Пскоў. Вітаўта падтрымаў і папа рымскі, які абвясціў крыжовы паход на Залатую Арду. У войску ВКЛ былі атрады з Польшчы, Тэўтонскага ордэна, Валахіі. Аднак асн. сілу войска ў 15—20 тыс. чал. складалі харугвы прыкладна 50 князёў ВКЛ. Войска Залатой Арды (відаць, па колькасці большае за войска ВКЛ) сустрэла Вітаўта ў межах Залатой Арды каля пераправы цераз р. Ворскла. Спачатку татары зацягвалі час перамовамі, аднак з падыходам асн. татарскіх сіл войска Вітаўта было акружана і разбіта, тысячы воінаў загінулі ці трапілі ў палон. Загінула не менш за 16 літоўска-бел. князёў, шэраг польскіх паноў, у т.л. кракаўскі кашталян Спытка. Вітаўт і Тахтамыш з рэшткамі войска ўцяклі. Перамога ў гэтай бітве дазволіла Цімур-Кутлуку зрабіць спусташальны набег на землі Кіеўшчыны і Валыні. ВКЛ захавала кантроль над паўн. Прычарнамор'ем, хоць праваліліся планы Вітаўта дамагчыся панавання над усёй Руссю. Паражэнне ў бітве стала адной з прычын, якая вымусіла падпісаць *Віленска-Радамскую унію 1401* ВКЛ з Польшчай.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. М., 1980. Т. 35. С. 73.

*Вячаслаў Насевіч.*

**бітва на Вядрошы 1500.** Адбылася 14 ліп. на р. Вядроша ў ходзе *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. Вясной 1500 вял. маскоўскі князь Іван III накіраваў пасла ў ВКЛ з тым, каб той абвясціў вайну. Следам за паслом рушыла маскоўскае войска. Баявыя дзеянні пачаліся ўздоўж усёй дзярж. мяжы. «Воровским обычаем» маскоўскія ваяводы авалодалі Бранскам, Пуціўлем, Гомелем, інш. гарадамі. На пачатку вайны вял. князь літоўскі Аляксандр накіраваў гетмана К.І.Астрожскага да Смаленска «стеречи границы», а сам з рэшткамі войск пайшоў праз Менск на Барысаў. У Смаленску да Астрожскага далучыўся гарнізон пад камандаю С.П.Кішкі, пасля чаго 4—5-тысячнае войска ВКЛ рушыла пад Дарагабуж, дзе стаяў маскоўскі ваявода Ю.Захар'іч. Ад перабежчыка Астрожскі даведаўся, што да Захар'іча падышла падмога, пасля чаго маскоўскае войска павялічылася да 20—40 тыс. воінаў. Паводле Хронікі Быхаўца, Астрожскі цвёрда вырашыў ісці на бітву: «Малоль многоль Москвич будет, только вземши Бога на помочь битися с ними, а не бившися с ними назад не вернутися». На пачатку бітвы Астрожскі разбіў авангард маскоўскага войска на левым беразе р. Вядроша, пасля чаго перайшоў раку і атакаваў гал. сілы ворага, якімі кіраваў Д.В.Шчаня. Зыход 6-гадзіннай бітвы прадвызначыла флангавая атака засаднага маскоўскага палка. Харугвы Астрожскага пачалі адступаць і былі разбіты. Маскоўскія воіны знішчылі мост цераз р. Трасна і дабівалі войска ВКЛ на яе левым беразе. Уцёкамі ўратаваўся толькі Кішка з чатырма ротмістрамі і з некалькімі сотнямі воінаў. Сам Астрожскі з многімі князямі і воінамі трапіў у палон. У выніку бітвы ВКЛ страціла лепшае войска і апынулася ў цяжкім ваенна-паліт. становішчы.

*Літ.*: Ярушевич А. Ревнитель православия князь К.И.Острожский (1461—1530) и православная Литовская Русь в его время. Смоленск, 1896. С. 84—85; Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Granica Moskiewska w epoce Jagiellonskiej. Lwów; Warszawa, 1922. S. 88; Herbst S. Bitwa nad Wiedroszą 1500 r. // Wieki średnie. Warszawa, 1962; Хроника Быховца. М., 1966. С. 111—113; Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий: (Очерки социально-полит. истории). М., 1982. С. 178—187.

*Генадзь Сагановіч.*



**бітва на Дурбе 1260.** Адбылася 13 ліп. на р. Дурбе (цяпер зах. Латвія) паміж жамойтамі і злучанымі войскамі Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў. Жамойцкае войска, якое налічвала каля 4 тыс. чал., аблажыла стратэгічна важны замак св. Георгія на Нёмане на 3 ад вусця Мітувы і ўзвяло побач з ім сваё ўмацаванне. Магістр Лівонскага ордэна Бурхард фон Горнгаўзен выехаў па вайсковую дапамогу ў Прусію. На чале сабраных сіл ён накіраваўся да Мемеля (Клайпеды) на злучэнне з лівонскай арміяй, каб разам зняць аблогу з замка і даставіць абаронцам харч. Ордэнскія сілы складаліся з некалькіх сотняў рыцарскай конніцы абодвух ордэнаў, добраахвотнікаў-крыжакоў з Германіі і рэвельскіх датчан, а таксама некалькіх тысяч пяхоты з ордэнскіх кнехтаў і падуладных куршаў, эстаў і прусаў. Жамойцкае войска адступіла ад замка св. Георгія і спустошыла Куронію, вымусіўшы крыжакоў перанесці туды ваенныя дзеянні. Перад пачаткам бітвы, паводле лівонскай «Старэйшай рыфмаванай хронікі», куршы дэзерціравалі з поля бою (паводле звестак Пятра з Дусбурга, у пачатку бітвы ўдарылі крыжакам у спіну). Раптоўная змена суадносін сіл выклікала масавыя ўцёкі эстаў і многіх прусаў. Пакінутыя большай часткай сваёй пяхоты, рыцары былі поўнасцю акружаны і знішчаны жамойтамі. У бітве загінуў Бурхард фон Горнгаўзен, маршал Прусіі Генрых фон Ботэль, 150 ордэнскіх братоў і шмат інш. рыцараў, кнехтаў і прусаў. Толькі нямногім удалося прабіцца з акружэння і схавацца ў лясах. Па колькасці загінуўшых бітва стала самай значнай у 13 ст. ў Прыбалтыцы. Вял. людскія страты прывялі да значнага паслаблення магутнасці абодвух ордэнаў і падзення іх аўтарытэту. Гэта выклікала масавыя паўстанні супраць ордэнскага панавання ў Куроніі і Прусіі, разрыў вял. князя літоўскага Міндоўга з крыжакамі і ўтварэння антыордэнскай кааліцыі Літвы, Жамойці і княстваў Русі.

*Літ.*: Livländische Reimschronik. Padeborn, 1876; Петр из Дусбурга. Хроника земли Прусской. М., 1997; Atskaņu hronika. Rīga, 1998.

***Ягор Новікаў.***

**бітва на Стрэве 1348.** Адбылася 2 лютага на р. Стрэва (правы прыток Нёмана) каля Коўна паміж войскамі ВКЛ і Нямецкага ордэна. Кіраўніцтва ордэна сабрала моцны кантынгент, папоўнены французскімі і англійскімі рыцарамі, каб адпомсціць «паганцам» за іх ранейшыя паходы ў Прусію. Войска узначаліў сам вял. магістр Генрых фон Дуземер, аднак ён з часткай рыцараў застаўся ў Істэрбургу, а гал. сілы павялі далей вял. маршал Зігфрыд фон Дагенфельд і вял. комтур Вінрых фон Кніпродэ. Іх армія 26.1.1348 уварвалася ў ВКЛ на Пд ад Коўна і больш за тыдзень бесперашкодна пустошыла панямонскія землі Літвы. Паводле загаду вял. маршалка рыцары не давалі літасці ні старым, ні малым. Толькі 2 лютага перад імі з'явілася армія Альгерда і Кейстута. Разам з літоўцамі яе складалі вял. сілы русінаў — «Ruteni de Lademar, de Brisik, Witenberge, de Smalentze», г.зн. палкі з Уладзіміра, Берасця, Віцебска, Смаленска, а па інш. звестках і з Полацка. Бітву пачаў Альгерд, і яна доўжылася шмат гадзін. Гал. сілы Альгерда спрабавалі прабіцца і захапіць штандар ордэна, аднак не здолелі, а атака цяжкаўзброеных рыцараў парушыла іх баявыя лініі і прымусіла адступаць. Пад вечар армія ВКЛ пакінула поле сечы. Абодва бакі панеслі цяжкія страты. З боку ВКЛ, паводле розных крыніц, загінулі дзесяткі тысяч ратнікаў, у т.л. князь Нарымонт. Многія з іх у момант адступлення патанулі ў Стрэве, слабы лёд якой не вытрымаў масы коннікаў. Непрыяцель таксама страціў тысячы ваяўнікоў, у тым ліку 8 (паводле інш. звестак 15) рыцараў, аднак вынік бітвы быў расцэнены ў ордэне як трыумф. Пасля завяршэння паходу ў гонар перамогі на Стрэве вял. магістр заклаў у Караляўцы касцёл св. Дзевы Марыі.

*Літ.*: Voigt J. Geschichte Preussens. Bd. 5. Königsberg, 1833; Codex Diplomaticus Prussicus. Bd. 3. Königsberg, 1848; Scriptores rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863; Приселков М.Д. Троицкая летопись: Реконструкция текста. М.; Л., 1950; Długosz J. Roczniki czyli kroniki sławnego Królestwa Polskiego. T. 5, ks. 9. Warszawa, 1975.

***Генадзь Сагановіч.***

**бітва на Уле 1564**, Чашніцкая бітва. Адбылася 26 студз. на р. Ула недалёка ад Чашнікаў паміж войскамі ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы ў ходзе *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Калі паслы ВКЛ, якія прыехалі ў Маскву для падпісання міру яшчэ ў снеж. 1563, не знайшлі паразумення з царскім дваром (бо не згадзіліся ўступіць цару Полацк і Інфлянты) і 9.1.1564 пакінулі яе, Іван IV аднавіў ваенныя дзеянні. Паводле яго загаду з Полацка выйшла 24-тысячная армія кн. П.Шуйскага, а з Вязьмы — 50-тысячная братоў В. і П.Сярэбраных, якія мелі намер злучыцца каля Оршы, каб адтуль ісці на Менск і Навагародак. Вял. гетман ВКЛ М.Радзівіл Руды, войскі якога (не больш за 8—10 тыс.) знаходзіліся недалёка ад Чашнікаў, дзякуючы інфармацыі ад шпегаў добра ведаў пра рух полацкай групоўкі. Каля в. Іванск над Улай (цяпер Чашніцкі р-н) гетман спаткаў і атакаваў праціўніка. Пасля франтальнага ўдару яго харугвы ажыццявілі імклівы напад з тылу і завяршылі бітву поўным разгромам арміі Шуйскага. Пераможцы некалькі міляў гналіся за рассеянымі ратнікамі царскіх палкоў. Загінула каля 9 тыс. маскоўскіх ратнікаў, а таксама князі Шуйскі, С. і Ф.Палецкія, А.Празароўскі, М.Адоеўскі, І.Захар'ін і інш. Многія трапілі ў палон, у т.л. кн. І.Ахлябінін, І.Нараваты, З.Пляшчэеў-Очын; пераможцы завалодалі багатым абозам. Рэшткі разбітага войска ўцякалі да Полацка. Даведаўшыся пра поўны разгром Шуйскага, кн. П.Сярэбраны, які ўжо стаяў пад Оршаю, пасля сутычкі з авангардам Ф.Кміты-Чарнабыльскага пачаў спешна адступаць да Смаленска. Перамога над Улаю сарвала буйную наступальную аперацыю цара, і пасля яе ваенныя дзеянні набылі ў асноўным лакальны характар.

*Літ.*: Сапунов А. Витебская старина. Т. 4, ч. 1. Витебск, 1885.

***Генадзь Сагановіч.***

**Блашчык** (Błaszczyk) Гжэгаж (н. 19.9.1953, г. Познань, Польшча), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1993), праф. надзвычайны (2000). Скончыў Пазнанскі ун-т (1977). Працаваў у Б-цы Польск. АН у Курніку. З 1978 у Ін-це гісторыі Пазнанскага ун-та; кіраўнік Цэнтра гісторыі Усх. Еўропы ў 1996—99. З 2003 чл. Літуаністычнай камісіі пры Ін-це гісторыі Польск. АН. Даследуе гісторыю ВКЛ, Літвы і Беларусі ў 19—пач. 20 ст., сучасную Літву, польска-літоўскія адносіны з 12—13 ст. да сучаснасці.

*Тв.*: Żmudź w XVII i XVIII w.: Zaludnienie i struktura społeczna. Poznań, 1985; Litwa współczesna. Warszawa; Poznań, 1992; Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Uposażenie. Poznań, 1992; Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój. Poznań, 1993; Burza koronacyjna: Dramatyczny fragment stosunków polsko-litewskich w XV w. Poznań, 1998; Dzieje stosunków polsko-litewskich od czasów najdawniejszych do współczesności. T. 1. Trudne początki. Poznań, 1998; Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności, 1492—1569. Poznań, 2002.

**Блінова** Тамара Барысаўна (н. 29.7.1950, г. Брэст), бел. гісторык. Канд. гіст. навук (1979). Скончыла Гродзенскі педагагічны ін-т (1972). З 1972 працуе ў Гродзенскім дзярж. ун-це. Даследуе гісторыю каталіцкай царквы і ордэна езуітаў на Беларусі ў 16—пач. 19 ст.

*Тв.*: Иезуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Иезуиты в Беларуси: Роль иезуитов в организации образования и просвещения. Гродно, 2002; Езуіцкі музей у Полацку // Мастацтва. 1993. № 3; З гісторыі Слуцкай езуіцкай калегіі // Бел. гіст. часоп. 1996. № 1; Пансіёны ордэна езуітаў у Беларусі (канец XVIII — 20-я гг. XIX стст.) // Там жа. № 4; Иезуитские библиотеки в Беларуси // Гіст.-археал. зб. Мн., 1996. № 8; Второй этап педагогической деятельности «Общества Иисуса» в Беларуси // Шлях у навуку. Гродна, 1997; Первый этап педагогической деятельности иезуитов // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі. Полацк, 1998; Третий этап педагогической деятельности ордена иезуитов в Беларуси // Весн. Гродзен. дзярж. ун-та. Сер. 1. 2001. № 1.

**Бляндрата** (Blandrata) Георгій (каля 1515, г. Салуца, Італія?—каля 1588), італьянскі ўрач, антытрынітарый. Вёў прапаганду антытрынітарызму ў Жэневе, уступіў у канфлікт з Ж.Кальвінам. У 1558 уцёк у Польшчу, стаў адным з ідэолагаў польск. і бел.-літоўскага радыкальна-рэфармацыйнага руху. У 1562 выехаў у Сяміградцзе і адышоў ад актыўнага ўдзелу ў рэфармацыйным руху. У 1567 пад рэдакцыяй Б. выйшаў калектыўны твор антытрынітарыяў «Пра фальшывага і сапраўднага адзінага Бога — бацьку, сына і святога духа».

*Сямён Падокшын.*

**Бобр** (цяпер гар. пасёлак у Крупскім р-не Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Аршанскім пав., на р. Бобр. У гіст. крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1516, калі кн. І.В.Друцкі-Красны завяшчаў Б. разам з Сакаловічамі і Недаходавым сваёй жонцы Марыне Іванаўне з князёў Заслаўскіх. Нашчадкаў у князя і яго жонкі не засталося, Б. з воласцю адышоў да вял. князя Жыгімонта I Старога. У 1559 упамінаецца разам са Шкловам як уласнасць Е.Хадкевіча. Магчыма, што перад гэтым Б. быў падараваны Жыгімонтам А.Гаштольду (памёр у 1539) і да Хадкевіча трапіў адначасова са Шкловам, Быхавам і інш. пры падзеле маёнткаў Гаштольдаў, род якіх вымер у 1542. У 1561 Б. адышоў да Яна Ераніма Хадкевіча, у 1579 да яго сына Аляксандра.



Герб **Бабра**.

Хадкевічы не жылі ў Б., здавалі яго ў арэнду (заставу). Захаваўся дакумент перадачы Б. ў заставу швагру Я.Х.Станіславу Пацу ў 1573. На той час Б. — мястэчка ў Аршанскім пав.; 71 дом, гасціны двор. Да маёнтка належалі вёскі Забаброўе, Сакаловічы, Панкавічы, Манасцыровічы. Пасля Паца Б. быў у заставе ў канцлера Л.Сапегі, які перадаў яго ў 1604 свайму слузе С.Галінскаму, пры якім заснавана Прудзінская Слабада (цяпер в. Прудзіны). У 1614 граф А.Хадкевіч прадаў свае правы на маёнтак арандатару К.Камару за 7000 коп літ. грошаў, мястэчка налічвала 172 дамы, 6 вуліц, мела гандл. плошчу з карчмой і пастаялым дваром, млын. Да воласці належалі Забаброўе, Сакаловічы, Панкавічы (Панькавічы), Манасцыровічы (Манастыры), Прудзінская Слабада. Некалькі дзесяцігоддзяў Б. належаў К.Камару і яго сыну Ераніму (Ярашу, які, відаць, заснаваў в. Ярашоўка). У 1699 маёнткам валодаў Бенядзікт Сапега. Яму належалі 9 вёсак: Стары Бобр (б. Забаброўе), Пліса, Куты, Ярашоўка, Прудзіны, Красная Слабада, Ламское, Шацкі, Пасём'е. У 1700 Б.Сапега прадаў Б. за 35 тыс. злотых Я.К.Лендорфу, стольніку мсціслаўскаму. У 1733 Б. перайшоў да кн. М.М.Агінскага, у 1750 адышоў да яго сына Ігнацыя (памёр у 1775). У 1762 Б. атрымаў магдэбургскае права, меў герб: у блакітным полі 2 збройныя постаці ў княжацкіх мантыях і каронах. У 18 ст. ўзведзены мураваны Марыінскі касцёл. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Богуш** Францішак Ксаверый Міхал (1.1.1746, Вількамірскі пав.—4.4.1820), гісторык, філосаф, асветнік. Вучыўся ў Віленскай акадэміі (1763—66, 1769—70) і Гарадзенскім калегіуме (1770—73). З 1761 езуіт, з 1772 ксёндз. У 1773 прэфект канвікта ў Гародні. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) спаведальнік у Варшаве, пробашч у Езне і Вількаміры. Потым працаваў у А.*Тызенгаўза*. У 1777—78 падарожнічаў з ім па Сілезіі, Аўстрыі, Германіі, Францыі, Англіі; уражанні ад паездкі апісаў у «Дзённіку» (надрукаваны ў Варшаве ў 1903, памылкова як твор С.Сташыца). З 1781 каад'ютар віленскі, у 1784 генеральны візітатар Адукацыйнай камісіі. Склаў «Сумарыйную выпіску з актаў віленскай кафедральнай капітулы 1501—1783» (надрукавана ў *«Апісанні рукапіснага аддзялення Віленскай публічнай бібліятэкі»*, Вільня, 1895, вып. 1). Быў рашучым праціўнікам *Таргавіцкай канфедэрацыі*. Пасля заняцця Вільні рас. войскамі ў 1792 арыштаваны.



Ф.К.М.**Богуш**.

Удзельнічаў у падрыхтоўцы *паўстання 1794*, прапаноўваў даць сялянам свабоду, прадаставіць паліт. правы мяшчанам. Перад пачаткам паўстання зноў арыштаваны і вывезены ў Смаленск. Праз 15 месяцаў вызвалены і вярнуўся ў Вільню. У 1803 генеральны візітатар школ Віленскай навучальнай акругі. З 1804 у Варшаве, міравы суддзя, займаўся навукамі і філантропіяй. З 1804 правадзейны чл. Варшаўскага т-ва сяброў навук, ганаровы чл. Віленскага ун-та. Выступаў за даследаванне літоўскага народа і мовы, правядзенне археал. раскопак у Літве. Выпрацаваў план напісання «нацыянальнай

гісторыі». Пераклаў на літоўскую мову паэму Вергілія «Георгікі», на польскую — кнігу франц. філосафа Ж.Верне «Філосаф без рэлігіі, паважаны ў таварыстве» (т. 1—2, Вильня, 1786), кодэкс Напалеона (Варшава, 1810). Рукапіс 3-томнай гісторыі Барскай канфедэрацыі загінуў.

*Тв.*: O początkach narodu i języka litewskiego. Warszawa, 1808; O budowli włościańskiej. Warszawa, 1811; Życie literackie ks. M.Poczobuta // Roczniki Towarzystwa Warszawskiego Przyjaciół Nauk. 1816. T. 9; Pochwała J.Chreptowicza // Там жа. 1817. T. 10; Ks. Bohusza odpowiedź względem początków narodu litewskiego // Pamiętnik Warszawski. 1817. Grudzień; Spominka o Antonim Tyzenhauzie napisana dla J.U.Niemcewicza w miesiącu wrześniu 1819. Wilno, 1820.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бое** (Бойерус, Boye, Boierus) Лаўрэнцій (1561, Стакгольм—13.2.1619), педагог, паэт. З мяшчан. Выехаў са Швецыі разам з папскім паслом А.*Пасевіна*. Вучыўся ў Празе, Оламаўцы, Вільні. У 1586 у Кракаве ўступіў у ордэн езуітаў. Выкладаў у езуіцкіх навуч. установах у Яраславе (1595—97), Дорпаце (1698—1602), Вільні (з 1604), Браневе (1609—12, 1618—19), Нясвіжы (1615—16). Аўтар камедый, акалічнасных вершаў, паэм «Песня да песні Андрэя Юргевіча, каноніка віленскага, супраць Волана» («Carmen ad Andream Jurgiewicz, Canonicum Vilnensem, Carmen odversus Volanum», Вільня, 1587, дадатак да адказу Юргевіча на інвектыву А.Волана супраць рымскага папы), «Помпа Казіміра» («Pompa Casimiriana», Брунсберг, 1604, апісанне абраза св. Казіміра, прысланага з Рыма ў Вільню ў 1604, выдадзена пад псеўданімам Квірын Кноглер Аўстрый, Quirinus Cnoglerus Austrius), «Каралямахія» («Carolomachia», Вільня, 1606, апісанне *Кірхгольмскай бітвы 1605*, апублікаванае пад імем студэнта Віленскай акадэміі К.Завішы) і інш.

**Бона** Сфорца (Bona Sforza; 2.2.1494, г. Віджэвана, Італія—1557), каралева польская і вял. княгіня літоўская, 2-я жонка *Жыгімонта I* Старога (з 1518), маці *Жыгімонта II Аўгуста*. Імкнулася павялічыць паліт. ўладу караля і вял. князя шляхам умацавання яе эканам. асновы. Значна павялічыла зямельную ўласнасць дынастыі Ягелонаў, абараняла дзярж. землі ад незаконнага прысваення іх феадаламі, асабліва магнатамі, у выніку пажалаванняў, падараванняў і купляў сканцэнтравала ў сваіх



Бона.

руках толькі на Беларусі воласці: Аболецкую Аршанскага пав., Азярышчанскую Віцебскага, Клецкую Навагародскага, Кобрынскую, Шарашоўскую Берасцейскага, Пінскую Пінскага, Рагачоўскую Рэчыцкага пав. і інш. Выкупляла дзярж. уладанні, якія былі ў закладзе ў магнатаў (Гарадзенскае староства і інш.). У суд. парадку вярнула ў склад гаспадарскіх (велікакняжацкіх) уладанняў многія захопленыя феадаламі дзярж. землі. Каб павялічыць свае даходы, у некаторых маёнтках (напрыклад, Клецкім і Пінскім



Пячатка **Боны**.

старраствах) у 1522—55 рэарганізавала сістэму эксплуатацыі сялянства на аснове ўвядзення новых форм землекарыстання і абкладання сялян павіннасцямі. Садзейнічала асваенню сялянамі лясоў і percatварэнню іх у с.-г. ўгоддзі, узнікненню некат. населеных пунктаў на Беларусі. Прынцыпы Б. па павелічэнні даходаў са сваіх маёнткаў шляхам узмацнення эксплуатацыі сялянства выкарыстаны пры ажыццяўленні агр. рэформы (*валочнай памеры*) у ВКЛ. Садзейнічала перасяленню польскіх шляхціцаў у ВКЛ, умацоўвала пазіцыі каталіцкага касцёла. У 1556 выехала на радзіму ў Італію, вывезла з сабой шмат каштоўнасцей. Яе маёнткі перайшлі да Жыгімонта II Аўгуста.

*Літ.*: Pociecha W. Królowa Bona (1494—1557): Czasy i ludzie Odrodzenia. T. 1—4. Poznań, 1949—58; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв.: (Исслед. по истории соц.-экон., полит. и культ. развития). М., 1961; Bogucka M. Bona Sforza. Warzsawa, 1989.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**«Бонча»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася больш за 100 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Асмалоўскія, Буйневічы, Куніцкія, Маркоўскія, Скажынскія, Сяніцкія. Мае выяву белага аднарога на блакітным полі. Клейнод — над



Герб **«Бонча»**.

прылбіцай з каронай палова такога ж аднарога. Існуе варыянт герба, дзе аднарог перакрэслены залатым паўмесяцам, над якім размешчаны 3 залатыя шасціпрамянёвыя зоркі. Вядомы з 14 ст.

***Валерый Пазднякоў.***

**бортнае права**, сукупнасць норм права, якія рэгламентавалі і рэгулявалі *бортніцтва*. Грунтавалася на гістарычна выпрацаваным і ўвасобленым у звычаях абагульненым вопыце бортніцтва і падтрымлівалася непахісным аўтарытэтам грамадскай думкі, традыц. мерамі ўшчування і пакарання. Першапачаткова ў аснове звычаю ляжалі розныя забароны і абмежаванні. Успрымаліся яны як непадлеглы сумненню факт і выконваліся без абгрунтавання і абмеркавання, потым — як агульнапрыняты звычай. Усе віды

парушэння Б.п. разглядаліся *копным судом*. Рашэнні капы (дэкрэты), у т.л. і смяротныя прыгаворы, якімі караліся зламысныя пчаладзёры, не падлягалі апеляцыі і былі канчатковымі, выконваліся адразу пасля абвяшчэння прыгавору. Без істотнай юрыд. трансфармацыі асн. нормы Б.п. ўвайшлі поруч з афіц. прававымі актамі (агульназемскія, абл. і валасныя прывілеі, лісты), соймавымі пастановамі (ухвалы, уставы або канстытуцыі) у Статуты ВКЛ 1529, 1566, 1588. Пры вызначэнні меры пакарання прадугледжваўся дыферэнцыраваны падыход, улічваліся характар і цяжар правапарушэння («выхад з права»), памер прычыненай шкоды, наяўнасць намеру і інш. Напрыклад, пашкоджанне бортнага дрэва па неасцярожнасці каралася штрафам у 2 капы грошаў, а наўмыснае псаванне — у 5-разовым памеры. Злоўленых на месцы злачынства («з лицом поймано») прысуджалі да смерці («на горла»). Нормы Б.п. дзейнічалі і ў войску. За знішчэнне борцей і крадзеж мёду вайсковыя ўставы, напрыклад, Менскага і Навагародскага соймаў пач. 16 ст. прадугледжвалі павешанне («на шыбеніцу»). За захоўванне лязіва спаганяўся з вайскоўцаў 1 рубель штрафу (кошт 27 пудоў жыта). Гандаль крадзеным мёдам караўся «хлостай» (біццё дубцамі) і выгнаннем з войска; выкрытага ў 2-і раз пазбаўлялі жыцця. Увядзенне Статута ВКЛ не спыніла выкарыстанне норм вуснага Б.п. копнымі судамі, узаконенымі дзяржавай. Карысталася ім і афіц. судаводства, калі ў Статуце адсутнічаў неабходны артыкул для інкрымінавання злачынства. Шматвяковае існаванне нар. Б.п. падтрымлівалася прыхільнасцю насельніцтва да сваіх звычаяў і насцярожаным стаўленнем да дзярж. судаводства. На Беларусі Б.п. дзейнічала амаль да канца 18 ст.

*Станіслаў Цярохін.*

**бортнікі**, пчаляры, якія займаліся *бортніцтвам*. Лакальныя назвы на Беларусі — барцялазы, вотчыны. Б. рабілі новыя борці (дуплы ў дрэве) і засялялі іх пчоламі (бароўкамі), рыхтавалі прынаду для раеў, чысцілі борці, выбіралі мёд, ахоўвалі пчол ад неспрыяльнага надвор'я і шкоднікаў. Умельства Б. перадавалася з пакалення ў пакаленне і ў шмат якіх сем'ях бортніцтва было спадчынным на працягу стагоддзяў.

**бортніцтва**, лясное пчалярства, пач. форма культ. пчалярства; адзін з найб. старадаўніх промыслаў ва Усх. Еўропе. Заснавана на развядзенні і ўтрыманні лясных пчол у штучных дуплах — борцях. Развілося з дзікага пчалярства. Як самастойны від лясного промыслу прайшло 3 этапы развіцця: ахова і догляд дзікіх пчол у знойдзеных дуплах, свядомае ўтрыманне аселенага рою ў прыстасаваных пад борці натуральных дуплах, развядзенне і ўтрыманне рою ў спецыяльна зробленых борцях. Станаўленне Б. як промыслу адбылося ў 1 ст. н.э. Пераход да класічнай формы Б. адбыўся са з'яўленнем жал. прылад працы, калі стала магчыма выдзёўбваць борці ў сырых ствалах дрэў. Пазней рабілі вуллі-калоды, якія прывязвалі да дрэва або ставілі на дашчаныя палаці. Каб залучыць пчол, новыя борці ці вуллі з сярэдзіны апырсквалі настоем духмяных траў або мёдам,



Да арт. **Бортніцтва**. Бортнік. Малюнак Я.П.Норбліна.

у борці клалі воск ці пустыя соты. Для аховы борцей ад драпежнікаў (куніц, мядзведзяў) вакол дрэва рабілі спец. прыстасаванні накшталт бараны зубамі ўніз, у дрэва забівалі нажы, падвешвалі петлі, званочкі, бразготкі і інш.

Б. было пашырана на ўсёй тэр. ВКЛ. Яго ахоўвала звычаёвае, а пазней і пісанае права. Статут ВКЛ 1588, напрыклад, за крадзеж мёду з борцей прадугледжваў пакаранне ад штрафу да смяротнага прысуду. *Бортнікі* часта аб'ядноўваліся ў бортныя цэхі — карпаратыўна-прафес. аб'яднанні з шырокімі правамі самакіравання. Вытворчая дзейнасць і побыт цэхаў рэгламентаваліся статутам, зацверджаным гар. радай. Пры паступленні ў цэх бортнікі прымалі прысягу на аддaнасць, паслухмянства, захоўванне сакрэтаў і выкананне патрабаванняў бортнай юрысдыкцыі. Узначальвалі цэхі выбраныя на штогадовых агульных сходах бортны староста, падсудак і пісар; пазней у кіраўніцтва ўваходзілі 2 лаўнікі, а падсудка замяніў гаёвы (суддзя). Кожны цэх меў свой статут, пячатку, скарбонку, пратэсу (харугву) з выявамі патрона пчалярства Іаана Златавуста, пчол і бортных рэалій. У час ваен. дзеянняў бортнікі выступалі ў складзе апалчэння пад сваёй цэхавай пратэсай (пячатка і пратэса віленскага бортнага цэха зберагаюцца ў касцёле Пятра і Паўла ў Вільні).

На працягу стагоддзяў Б. задавальняла патрэбы ў мёдзе і інш. прадуктах жыццядзейнасці пчол (воск, пропаліс), якія былі важнымі відамі экспарту. У пач. 16 ст. толькі праз Полацкую мытную камору штогод вывозілі больш за 2 тыс. пудоў воску. У той час на Беларусі было больш за 1 млн. борцей, таварная прадукцыя якіх перавышала 0,5 млн. пудоў мёду штогод. Б. выпрацавала сваю тэхналогію ўтрымання і догляду пчол, адмысловую тэхніку вырабу борцей, бортных прылад і прыстасаванняў, посуду для захоўвання і транспарціроўкі мёду, сродкі аховы борцей. З канца 17 ст. ў выніку масавых высечак лясоў на продаж, пад ворыва, для прамысл. мэт пачаўся заняпад Б. У 1-й пал. 19 ст. яно страціла сваё ранейшае гасп. значэнне і саступіла месца калоднаму пчалярству.

*Літ.*: Сержпутовский А.К. Бортничество в Белоруссии // Материалы по этнографии России. СПб., 1914. Т. 2; Гурков В.С., Терехин С.Ф. Бортничество в Белоруссии. Мн., 1980.

*Уладзімір Гуркоў, Станіслаў Цярохін.*

**бортныя знакі**, знакі, што абазначалі прыналежнасць борці пэўнаму гаспадару. Б.з. высякалі на ствале борцевага дрэва на ўзроўні вачэй. У аснове знакаў — геаметрычныя фігуры: спалучэнні розных па велічыні і форме трохвугольнікаў, рысак, дужак і інш. Аналагічныя знакі ўжываліся пры межаванні зямлі, лугоў, лесу, азёр, рэчак. Б.з. былі своеасаблівымі сямейнымі гербамі, якімі абазначалі ўласныя рэчы і прылады працы. Старцы, дзесятнікі і інш. выбарныя кіраўнікі сялянскіх грамад у 15—17 ст.


**Бортныя знакі**.
Малюнкі з дакументаў 18 ст.

выкарыстоўвалі Б.з. замест подпісаў на службовых паперах, копнікі — на пастановах копных судоў.

*Станіслаў Цярохін.*

**Борхі**, шляхецкі род герба «Тры каўкі». Паводле родавага падання, паходзілі з Італіі, пасля перасяліліся ў Вестфалію, з 15 ст. вядомы ў Інфлянтах, дзе валодалі маёнткамі Варкляны, Прэлі і інш. (цяпер у Латвіі). Карысталіся графскім тытулам, які нанава падараваны ў 1783 імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі і ў 1839 прызнаны ў Рас. імперыі. Найб. вядомыя:

Ф а б і я н  К а з і м і р (?—да 24.6.1710), сын палкоўніка Гедэона Яна, старасты люцынскага, ген.-ад'ютант кароннага войска, ген.-лейтэнант. У пач. Паўночнай вайны 1700—21 пасланы каралём польскім і вял. князем літоўскім Аўгустам II з місіяй да цара Пятра I, у бітве ўзяты ў палон шведамі і 7 гадоў зняволены ў Рызе. Вызвалены па просьбе Станіслава Ляшчынскага. У 1710 генерал артылерыі ВКЛ.

Я н  Е н д ж э й  Ю з а ф (1715?—3.10.1780), сын Ежы, палкоўніка войска ВКЛ, суддзі земскага інфлянцкага ў 1683—1722, пляменнік Фабіяна Казіміра. Пасол на соймы 1735, 1746, 1758, 1760, 1761, 1762, 1764. Староста люцынскі, падкаморы інфлянцкі ў 1744—65, ваявода інфлянцкі ў 1765, падкаморы каронны ў 1765—80, вял. канцлер каронны ў 1780. Падтрымліваў караля Аўгуста III, выступаў за абранне яго сына Караля на курляндскі трон, для чаго ездзіў пасламу Маскву ў 1763.

М і х а л  Я н (31.6.1751 або 20.6.1753, Варкляны—28 або 29.12.1810), сын Яна Енджэя Юзафа. Скончыў піярскі Калегіум нобіліум у Варшаве. З 1762 у войску, у 1771 капітан пешай гвардыі ВКЛ, быў паранены пры спробе барскіх канфедэратаў выкрасці караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, з 1776 палкоўнік гусарскай харугвы, ген.-лейтэнант кароннага войска, вял. абозны ВКЛ у 1781—87, ваявода белзскі ў 1787—91, староста люцынскі. Рыцар і бальі Мальтыйскага ордэна, у 1783 атрымаў тытул графа Свяшчэннай Рымскай імперыі. Быў аматарам мастацтваў і літаратуры, займаўся прыродазнаўчымі навукамі, выдаў працы па геалогіі, мінералогіі, батаніцы. У 1776—77 зрабіў навук. падарожжа на Сіцылію і Мальту. У сваім маёнтку ў Варклянах пабудаваў палац і парк, упрыгожаны бюстамі гіст. дзеячаў Рэчы Паспалітай, якія апісаў у кн. «Сентыментальны парк маёнтка Варкляны графа Борха на Белай Русі» («Jardin sentimental du château de Warkland dans le Comté de Borch en Russie Blanche», Варшава, 1795). Сабраў у Варклянах вял. прыродазнаўчыя калекцыі і б-ку. Аўтар паэм на франц. мове, у т.л. «Станіславіяда, шчаслівае выратаванне Станіслава II, караля Польшчы» («La Stanislaide ou l'Heureuse délivrance de Stanislas II roi de Pologne», Варшава, 1791), біяграфіі свайго цесця «Гісторыя жыцця Георга Броўна, графа Свяшчэннай Імперыі, генерал-губернатара Лівоніі і Эстоніі» («Histoire de la vie de George de Browne, comte de Saint-Empire, gouverneur général de Livonie d'Esthonie», Рыга, 1794).

Ю з а ф  Г е н р ы к (1764—1835), сын Яна Енджэя Юзафа. Палкоўнік кароннага войска, шамбялян караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пасол на Чатырохгадовы сойм 1788—92. У 1805—09 маршалак шляхты Віцебскай губ. У 1812 прызначаны Напалеонам членам адміністрацыйнай камісіі Віцебска. Пасля вайны зняволены, сасланы ў Петразаводск, пазней амнісціраваны.

*Валерый Пазднякоў.*

**борці**, б а р т ы , прадстаўнікі балцкага племя, якія перасяліліся ў 1276 з Прусіі ў ВКЛ, уцякаючы ад крыжацкай агрэсіі. Былі паселены паміж Гародняй і Вільняй у басейне р. Мерач, на ніжняй Віліі, над сярэднім Нёманам. Да 16 ст. былі асіміляваны і з этнічнай групы ператварыліся ў асобную катэгорыю сялянства. У абавязак Б. уваходзіла будаўніцтва і рамонт мастоў, перапраў, гацяў. У мірны час Б. плацілі чынш і дзякла, а ў час вайны забяспечвалі пераправу войск ВКЛ цераз водныя перашкоды. У час *валочнай памеры* Б. перасталі даваць дзякла, з канца 16 ст. зноў выконвалі натуральныя павіннасці. У 15—18 ст. паселішчы Б. утваралі асобную адм.-гасп. адзінку — Бартнянскую воласць (староства). У 18 ст. яно складалася з Пеляскага, Скольвенскага, Гарадзенскага і Панёманскага войтаўстваў.

*Літ.*: О х м а н с к и Е. Иноземные поселения в Литве XII—XIV вв. в свете этнонимических местных названий // Балто-славянские исследования, 1980 г. М., 1981.

*Алесь Доўнар.*

**Бохан** Юрый Мікалаевіч (н. 21.2.1966, Мінск), беларускі гісторык і археолаг. Д-р гіст. навук (2003). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1990). З 1990 у Ін-це гісторыі Нац. АН Беларусі, з 1993 працуе ў аддзеле гісторыі Беларусі 13—18 ст., з 1997 выконваючы абавязкі загадчыка, з 2001 загадчык. Даследуе пытанні урбаністычнага развіцця ВКЛ у 15—18 ст., узбраення і арганізацыі войска ВКЛ 14—16 ст., побыту феадалаў ВКЛ у 15—16 ст. У 1991—92 праводзіў археал. раскопкі ў в. Лоск Валожынскага р-на. Удзельнічаў у раскопках Полацка, Міра, Маладзечна і інш. Адзін з аўтараў кніг «Археалогія Беларусі» (т. 4, Мн., 2001), «Гісторыя Беларусі» (т. 3, Мн., 2004).

*Тв.*: Аб месцы мястэчка ў структуры гарадскіх пасяленняў XV—XVIII стст.: (па матэрыялах мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Беразіны) // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1993. Ч. 1; Асноўныя заканамернасці планіровачнага развіцця мястэчак паўночна-заходняй Беларусі ў XV—XVIII стст.: (па матэрыялах мястэчак вярхоўяў Віліі і нёманскай Бярэзіны) // Там жа. Мн., 1994. № 3; Да пытання аб ідэалагічных передумовах Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года // З гісторыі уніяцтва ў Беларусі. Мн., 1996; Арганізацыя найманых аддзелаў у Вялікім княстве Літоўскім у XV—XVI стст. // Спадчына. 2002. № 4; Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002; Зброя Вялікага княства Літоўскага, 1385—1576. Мн., 2003.

**бочка**, адзінка аб'ёму. Статуты ВКЛ 1566 і 1588 прыраўновалі Б. ВКЛ (літоўскую, віленскую) да кракаўскай Б. з 4 *карцоў*. У ВКЛ у 17—1-й пал. 18 ст. існавалі мясц. разнавіднасці Б.: у 1 карэц або 30 *гарцаў* жыта (1673, Мыш, Клецк; 1750, Волма), 1,5 карца або 81 гарнец (1670, Слуцк), 3 карцы (1677, Дзялятычы), 40 гарцаў (1651, 1757, Нясвіж), 60 гарцаў (1677, Мір; 1776, Нясвіж), 80 гарцаў (1672, Ляхавічы; 1650, Копысь), 96 гарцаў (1666,



Крычаў), 1,5 віленскай Б. (18 ст., Невель), 2 віленскія Б. (1653, Нясвіж; 1671, Шацк), 2 салянкі або 2 чвэрці, шанкі (1618, Бялынічы; 1652, Полацк; 1714, Усвяты; 1747, Кобрын). З мэтай уніфікацыі мераў сойм 1764 абвясціў эталонам у Рэчы Паспалітай каронную (скарбовую) Б. і разаслаў клеймаваныя ўзоры мер — варшаўскі карэц для вымярэння збожжа і гарнец для вымярэння напіткаў. Паводле гэтых мер скарбовая Б. для збожжа адпавядала 271,35 л, а для напіткаў 406,54 л. Каб падкрэсліць аўтаномію ВКЛ, сойм 1766 устанавіў віленскую Б. для аптовага гандлю збожжам і напіткамі і для шынкавання збожжа. Пры аптовым гандлі Б. прыраўноўвалася да 4 карцоў ВКЛ або 12 каронных (варшаўскіх) карцоў (407,04 л). Пры шынкаванні Б. складалася з 72 вял. гарцаў або 144 малых гарцаў (406,61 л). Аднак землеўласнікі, ураднікі і гандляры ігнаравалі уніфікацыю, таму Скарбовая камісія ВКЛ у 1771 прыгразіла ім сваім судом і дазволіла канфіскоўваць і знішчаць прыватныя нестандартныя меры.

*Літ.*: Петрушевский Ф. Польские меры, или Описание польских мер, весов и монет. 2 изд. СПб., 1834; Jurkiewicz J. Powinności włościan w dobrach prywatnych w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI—XVIII wieku. Poznań, 1991.

***Яўген Анішчанка.***

**Брагін** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Брагінскага р-на Гомельскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Кіеўскім ваяв., на р. Брагінка. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1147. З 1360-х г. у складзе ВКЛ, цэнтр воласці, належаў вял. князю. У 15—17 ст. на месцы стараж. дзядзінца Б. існаваў замак: пляцоўка памерам 90 × 70 м, умацаваная валам вышынёй 5—6 м, шырыня ў аснове больш за 10 м. У 1500 Брагінская воласць упамінаецца ва ўстаўнай грамаце Жыгімонта I Старога намеснікам дзярж. уладанняў. У 1506 праз Б. прайшлі крымскія татары. У 1509 вял. князь пацвердзіў князю М.В.Збаражскаму права на пажыццёвае валоданне Брагінскай вол., у 1514 падараваў яе князю «з местам, корчмамі, мытам і замкам на вечныя часы», потым воласць належала яго нашчадкам *Вішнявецкім*. У 1511 вял. князь выдаў Б. грамату, паводле якой яго жыхары мелі права плаціць падаткі непасрэдна ў дзярж. скарб. У час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* у 1535 спалены маскоўскімі войскамі. З сярэдзіны 16 ст. ў Б. вядома Мікалаеўская царква. З 1569 Б. у складзе Польскага каралеўства. Паводле інвентара 1574 на замкавым вале былі сцены гародні з усходамі на бланкаванне, абарончая вежа з боку Брагінкі, 2-ярусная драўляная вежа-брама з вял. святліцай наверсе. Злева ад уваход ў лініі гародняў стаяла царква Св. Тройцы. Да замкавай брамы вёў перакідны мост. У 1601—03 у Б. пры двары кн. А.Вішнявецкага знаходзіўся Лжэдзмітрый I. У 1609 Вішнявецкі з жонкай заснаваў у Сяльцы каля Б., на р. Брагінка, мужчынскі Праабражэнскі і жаночы Дабравешчанскі манастыры, якія ў 1726 сталі уніяцкімі. У *антыфеадальную вайну 1648—51* у 1648 жыхары Б. адчынілі браму войску Б.Хмяльніцкага на чале з палкоўнікамі Нябабай і Хвяськом. За здраду горад быў разбураны войскам Рэчы Паспалітай, замак больш не аднаўляўся, на яго месцы ўзнік «двор» Вішнявецкіх. Пасля 1744 спадчына Вішнявецкіх, у т.л. і Б., адышла да Агінскіх, Замойскіх, потым Плятэраў, Пшаздзецкіх, Бжастоўскіх і Вяльгорскіх. У 1784 узведзены новы будынак Мікалаеўскай царквы. У 1790 пабудавана царква Раства Багародзіцы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Бранеўскі** Марцін (1564 або 1565—1624), пратэстанцкі рэлігійны дзеяч Рэчы Паспалітай. Відаць, паходзіў з польск. сям'і, што належала да «чэшскіх братоў» (разнавіднасць антытрынітарыяў). Сам належаў да кальвіністаў або «чэскіх братоў». Упершыню ўпамінаецца ў 1595 як удзельнік пратэстанцкага сінода ў Торуні, дзе выступаў за аб'яднанне ўсіх пратэстантаў Рэчы Паспалітай. Магчыма, у 1697 быў паслом на сойм. З 1596 па даручэнні кн. К.К.*Астрожскага* працаваў над пагадненнем паміж праваслаўнымі і пратэстантамі, каб разам супрацьстаяць наступу каталіцызму і уніі, асаблівыя кантакты падтрымліваў з галавой пратэстантаў ВКЛ К.*Радзівілам* Перуном. Адзін з арганізатараў супольнага сабора праваслаўных і пратэстантаў у Вільні ў 1599. Усталяваў кантакты з Кірылам Лукарысам, пасланнікам александрыйскага патрыярха Мялеція Пігаса ў Рэчы Паспалітай. Пасол на соймы 1605 і 1606. У 1606 удзельнічаў у *Зэбжыдоўскага рокашы 1606—09*. Аўтар «Пунктаў рокашавых», якія сам прачытаў 24.8.1606 на Сандамірскім з'ездзе. Пасля яшчэ некалькі разоў быў соймавым паслом. Устаноўлена, што Б. — аўтар палемічнага твора «Апокрысіс, або Адказ на кнігі пра Берасцейскі сабор ад імя людзей старажытнай грэчаскай рэлігіі», апублікаванага ў адказ на кнігу П.Скаргі «Берасцейскі сабор». Кніга выйшла на польскай мове пад псеўданімам Хрыстафор Філалет (Chrystophor Philaleth, у перакладзе з грэчаскай мовы — Хрыстаносец Праўдалюб) без указання на месца і год выдання. Пераклад на бел. мову выйшаў у Вільні ў 1597. Кніга адыграла значную ролю ў рэлігійнай палеміцы праваслаўных з каталікамі і уніятамі канца 16—пач. 17 ст.

*Літ.*: Яременко П.К. Український письменник-полеміст Христофор Філалет і його «Апокрисис». Львів, 1964; Byliński J. Marcin Broniewski — trybun szlachty wielkopolskiej w czasach Zygmunta III. Wrocław, 1994.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бранск** (рус. Брянск, цяпер горад, цэнтр Бранскай вобл. Расійскай Федэрацыі), горад, сталіца *Бранскага княства*, на р. Дзясна. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1146. У сярэдзіне 13 ст. ўтварылася Бранскае княства. Восенню 1356 Б. і Смаленск ваяваў вял. князь Альгерд. Каля 1360 горад далучаны да ВКЛ. Бранскімі князямі ў розныя часы былі Дзмітрый Альгердавіч, Раман Міхайлавіч Чарнігаўскі, Свідрыгайла, Васіль Яраславіч (гл. ў арт. *Яраславічы*), князі *Мажайскія*. Пасля *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* у складзе Расіі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Бранск** (польск. Brańsk, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Бельскім пав. Падляшскага ваяв., пры ўпадзенні р. Бронка ў Нурэц, дзе знаходзіцца раннесярэдневяковае гарадзішча — даўняя сядзіба намеснікаў. У 11 ст. Б. разам з інш. гарадамі *Падляшша* быў заняты Яраславам Мудрым. У наступных стагоддзях за яго сапернічалі мазавецкія і рус. князі, пасля літоўскія. У выніку фарміраваўся этнічна змешаны склад горада, з перавагай дробнай мазавецкай шляхты на З і Пд ад яго і рус. пасяленнямі на Пн і У (правасл. прыходы Малешы і Гадышава). У 15 ст. Б., пасля *Бельска*, стаў другім цэнтрам Бельскай зямлі, яе намеснік называўся ваяводам бельскім і бранскім. У 1493 Б. атрымаў

епіскап, у епархіі якога знаходзілася брацтва. Дамінуючая роля ў Б.у. належала купецка-цэхавым вярхам горада і уніяцкаму духавенству. Паколькі на чале гар. магістратаў таксама стаялі прадстаўнікі гэтых вярхоў, Б.у. на Беларусі былі часткаю сістэмы гар. самакіравання, што дазваляла гар. уладам уздзейнічаць на большасць гараджан не толькі юрыдычна, але маральна і ідэйна. Б.у. мелі вял. уплыў на рамесныя цэхі, прыпісаныя да пэўных цэркваў горада. У брацтвах былі свае статуты і харугвы, іх дзейнасцю кіравалі выбраныя на агульных сходах «старэйшыя» (старшыны). На сходах таксама рабіліся запісы ў брацкія кнігі, збіраліся ўклады ў брацкую скарбонку, якой «старшыя» братчыкі карысталіся як своеасаблівым банкам для разнастайных гандл.-фінансавых аперацый, прымаліся ў сябры брацтва новыя братчыкі, якія давалі прысягу. Гал. мэтай Б.у. была рэліг., дабрачынная і асветніцкая дзейнасць. Ладзіліся агульныя маленні, пахаванні нябожчыкаў (сяброў брацтва і чл. іх сем'яў), святочныя абеды. Са скарбонкі брацтва выдаваліся пенсіі старым і нядужым «братам», іх удовам і сіротам. Б.у. ўтрымлівалі «калечыя куты» (прытулкі), шпіталі. У выключных выпадках брацтва магло даць грашовую дапамогу людзям, якія не належалі да Б.у. Ахвяравалі таксама сродкі на ўтрыманне вязняў у астрогах. Братчыкі дапамагалі школам, якія былі прыпісаны да Б.у., распаўсюджвалі рэлігійную л-ру, прапагандавалі хрысціянскае веравучэнне інш. сродкамі. Літаратура, якой карысталіся сябры Б.у., выдавалася на бел. і царкоўнаслав. мовах. Б.у. зрабілі значны ўклад у развіццё бел. нац. культуры.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**бровар** (польск. browar ад ст.-ням. broawer), вытворчая пабудова, дзе варылі піва, гналі гарэлку. Назва вядома з пач. 16 ст. Размяшчаліся ў велікакняжацкіх і прыватнаўладальніцкіх замках, дварах феадалаў, пры корчмах. Звычайна будавалі каля вадаёмаў. Складаліся, як правіла, з хаты (цёплага памяшкання), каморы і сенцаў. Часта разам з Б. пад адной страхой будавалі лазню, кухню, пякарню, саладоўню з сушыльняй, варыўню, дзе захоўвалі гародніну і харчовыя прыпасы. У Б. знаходзіліся печы, піваварныя катлы, прыстасаванні для выганкі гарэлкі. Звычайна Б. былі невялікія, на 2—3 катлы. У радзівілаўскім Б. ў Крычаве было 12 катлоў, за суткі ён даваў 110 вёдраў гарэлкі. Як правіла, пры Б. адкормлівалі жывёлу (кормам былі брага і інш. адходы ад вінакурства і піваварства). Звычайна на Б. працаваў майстар-віннік і 3—4 падсобныя работнікі. На больш буйных Б. працавалі віннік, падвіннік, работнікі пры заторы, пры цэбрах, жыгалы пры печах, скотнікі, бондары, вучні. З-за таго, што права *прапінацыі* належала дзяржаве і феадалам, сяляне не трымалі ўласных Б. Яны маглі карыстацца за плату панскім Б. для прыгатавання гарэлкі і піва на святы, багамолле, вяселле і інш.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901. С. 442—446; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.

***Валерый Пазднякоў.***

**Брудзеўскі** Войцех, гл. *Войцех з Брудзева.*

**Брукнер** (Brückner) Аляксандр (29.1.1856, г. Цярнопаль—24.5.1939), польскі філолаг-славіст і літуаніст, літаратуразнавец, гісторык культуры. Чл. Польск. АН у Кракаве (1888), Пецярбургскай АН (1890), акадэмій навук у Бялградзе, Празе, Сафіі. Д-р габілітаваны (1878), ганаровы д-р Віленскага ун-та (1926). Вучыўся ў Львоўскім (1872—75), Венскім, Лейпцыгскім і Берлінскім (1876—78) ун-тах. Дацэнт Львоўскага і Венскага ун-таў (1878—81), праф. славянскіх моў і літаратур Берлінскага ун-та (1881—1924). Даследаваў мовы, л-ру і культуру палякаў і інш. славянскіх народаў, стараж. гісторыю славян, этналогію, тапанімію, традыцыйныя вераванні славян і балтаў, уплыў польскай культуры на культуру суседніх народаў. Высока ацаніў старажытную бел. л-ру. Шмат звестак пра культуру ВКЛ у яго творы «Старажытнапольская энцыклапедыя» («Encyklopedia staropolska», т. 1—2, Варшава, 1937—39, 2 выд. 1990).

*Тв.*: Litu-slavische Studien. T. 1. Die slavischen Fremdwörter im Litauischen. Weimar, 1877; Polnisch-russische Intermedien des XVII. Jahrhunders // Archiv für slavische Philologie. 1891. T. 13; Dzieje literatury polskiej w zarysie. T. 1—2. Warszawa, 1903 (3 wyd. 1924); Literatura religijna w Polsce średniowiecznej: Szkice literackie i obyczajowe. T. 1—3. Warszawa, 1903—04; Starożytna Litwa: Ludy i Bogi. Szkice historyczne i mitologiczne. Warszawa, 1904 (3 wyd. Olsztyn, 1984); Różnowiercy polscy: Szkice obyczajowe i literackie. Warszawa, 1905 (3 wyd. 1962); Dzieje języka polskiego. Kraków, 1906 (4 wyd. Wrocław; Kraków, 1960); Pieśni polsko-ruskie. Pamiętnik literacki. 1911. R. 10; Słownik etymologiczny języka polskiego. Kraków, 1926 (9 wyd. Warszawa, 2000); Franziskus Skorina // Zeitschrift für slavische Philologie. 1927. T. 4; Zarys dziejów literatur i języków literackich słowiańskich. Lwów, 1929 (з Т.Лер-Сплавінскім); Dzieje kultury polskiej. T. 1—4. Kraków; Warszawa, 1930—46 (4 wyd. 1991); Kultura, piśmiennictwo, folklor. Warszawa, 1974; Początki i rozwój języka polskiego. Warszawa, 1974; Mitologia słowiańska i polska. Warszawa, 1980 (2 wyd. 1985).

*Літ.*: Aleksander Brückner, 1856—1939. Warszawa, 1989 (змешчана бібліяграфія прац Б.).

***Валерый Пазднякоў.***

**брыгіткі**, сальватарыянкі, манахіні каталіцкага манаскага ордэна св. Брыгіты (ордэн Найсвяцейшага Збавіцеля, лац. Ordo Sanctae Birgittae, Ordo Sanctissimi Salvatoris, OSSalv). Заснаваны каля 1346 у Вадстэне (паўд. Швецыя) Біргітай (Брыгідай), дачкой шведскага кн. Біргера, на мадыфікаваных «Правілах св. Аўгусціна». Зацверджаны буламі рымскіх папаў Урбана V (1370) і Урбана VI (1378). Паводле статута, кляштар Б. павінен быў складацца з жаночага і мужчынскага канвентаў, злучаных касцёлам. У ідэале ў кляштары было 85 асоб, у т.л. 60 манашак, 4 дыяканы, 13 капланаў, 8 канверсаў; манахі-мужчыны выконвалі літургічныя і душпастырскія функцыі. Кантакты паміж манашкамі і манахамі былі строга абмежаваны. Аднак большасць кляштараў Б. мелі толькі жаночыя канвенты. Б. насілі цёмна-вішнёвую сутану, такі ж плашч, белую хустку і чорную льняную накідку з каронай з белага палатна з 5 кружкамі чырвонага сукна (памяць пра раны Хрыста). Кляштары Б. знаходзіліся пад юрысдыкцыяй мясц. біскупаў. Былі распаўсюджаны гал.ч. у Паўн. Еўропе. Заняпад ордэна адбыўся ў 16 ст. ў сувязі з Рэфармацыяй. У Польшчы Б. з'явіліся ў 1396 у Гданьску. Каля 1426 кляштар Б. заснаваў у Любліне Ягайла ў гонар Грунвальдскай перамогі. У ВКЛ кляштары Б. існавалі ў Берасці (засн. ў 1623 Аляксандр Гасеўскі, Ян і Кацярына Пацеі, Ігнат Садоўскі, стараста слонімскі), Гародні (засн. ў 1636 вял. маршалак ВКЛ Крыштоф Весялоўскі і яго жонка Аляксандра з Сабескіх), Вільні (засн. каля 1650). Усе кляштары Б. у ВКЛ былі аднаканвентныя (жаночыя). Утрымлівалі школы для дзяўчат, значнай ролі не адыгрывалі.

***Валерый Пазднякоў.***



Я.**Брыётэ**.

**Брыётэ** (Briôtet) Якуб (17.7.1746, Тарні, Бургундыя—25.5.1819), вучоны-медык. Д-р медыцыны і хірургіі (1787). Вывучаў хірургію ў шпіталях Ліёна і Парыжа. Па запрашэнні хірурга М.Рэнье ў 1777 прыехаў у Вільню, дзе стаў прасектарам і дэманстратарам анатоміі ў Гал. школе ВКЛ. Вырабляў анатамічныя прэпараты. У 1780 атрымаў ад Адукацыйнай камісіі патэнт на званне прафесара хірургічных аперацый і дэманстратара анатоміі. У 1785 упершыню ў Вільні вучыў рабіць прышчэпкі ад воспы. У 1791 прызначаны генеральным штабс-хірургам войска ВКЛ. У 1808 стварыў пры Віленскім ун-це хірургічную клініку, якую ўзначальваў да 1811. Адзін з заснавальнікаў Віленскага лекарскага т-ва. У 1805 абраны членам-карэспандэнтам Парыжскага мед. т-ва і Парыжскай мед. акадэміі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Брэнштэйн** (Brensztejn) Міхал Яўстафій (2.10.1874, г. Цельшы, Жамойць—29.3.1938), гісторык культуры, бібліёграф. Ганаровы доктар Віленскага ун-та (1936). Вял. веды набыў самаадукацыяй. Жыў у Закапанэ (Польшча), Цельшах, з 1910 у Вільні. З 1919 працаваў бібліятэкарам Віленскага ун-та. Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці Т-ва аматараў навук у Вільні, з 1927 хавальнік яго музейных збораў. Аўтар прац па гісторыі культуры, пісьменнасці, бібліятэк ВКЛ, Літвы і Беларусі.

*Тв.*: Druki litewskie: Studjum historyczno-statystyczne. Warszawa, 1906; Przywileje królewskie miasta Merecza // Kwartalnik Litewski. 1911. Czerwiec; Bibljoteka uniwersytecka w Wilnie do roku 1832-go. Wilno, 1922 (2 wyd. 1925); Zegarmistrzostwo wileńskie w wiekach XVI i XVII // Ateneum Wileńskie. 1923. № 1; Sztycharze wileńscy Perlowie i nieznana fabryka kart do gry w Oranach w XVIII w. // Там жа. 1924. Z. 5—6; Teatr szkolny w Krożach na Żmudzi // Там жа. 1925. Z. 9; Scalanie archiwaljów w Wilnie // Там жа. 1935. R. 10; Zarys dziejów ludwisarstwa na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1924; Adam-Honory Kirkor: Wydawca, redaktor i właściciel drukarni w Wilnie od r. 1834 do 1867. Wilno, 1930.

*Літ.*: St.K. [K o ś c i a ł k o w s k i S.] Michał Eustachy Brensztejn (1874—1938): Zarys życia i działalności naukowo-publicystycznej wraz z wykazem bibljograficznym prac // Ateneum Wileńskie. 1938. R. 13.

***Валерый Пазднякоў.***



POSTILLA
tatai esti
Trumpas ir
Prastas Ischguldimas
Euangeliu / sakamuiu Baßniczoie
Per
Jana Bretkuna Lietuwos Plebona
Isspausta Karaliaucziuie
Jurgio Osterbergero.
1591.

Ё.**Брэткунас**. Пасціла. Каралявец, 1591. Тытульны ліст.

**Брэст**, горад у Рэспубліцы Беларусь, цэнтр вобласці і раёна, гл. *Берасце*.

**Брэткунас** (Б р э т к е, Bretkūnas, Bretke) Ёнас [1536, в. Бамлен, Прускае герцагства—(1.10?).1602], лютэранскі пастар, адзін з пачынальнікаў літоўскага пісьменства. З 1555 вучыўся ў Каралявецкім, з 1557 — у Вітэнбергскім ун-тах. Служыў пастарам у мяст. Лябіан (Прусія), пасля ў Караляўцы. Пісаў «Хроніку Прускага краю» (на ням. мове, захаваліся фрагменты, апублікаваны ў 1983). Склаў зб. «Песні духоўныя» (1589), зб. пропаведзяў «Пасціла» («Postilla», ч. 1—2, Каралявец, 1591). Аўтар першага перакладу Бібліі на літоўскую мову, які застаўся ў рукапісе. Працы Б. зрабілі значны ўплыў на развіццё літоўскага пісьменства.

*Тв.*: Rinktinai raštai. Vilnius, 1983; Navias Testamentas. Paderborn, 1991; Psalteras. Paderborn, 1991; Biblia: tatai esti wissas Schwentas Raschtas, lietuwischkai. Paderborn, 1996; Giesmes Duchaunas ir kitos 1589 metų liturginės knygos: tekstai ir jų šaltiniai / Parengė G.Michelini. Vilnius, 2001.

**буда**, прадпрыемства са спецыяльна абсталяванай печчу для смалакурэння, гонкі дзёгцю, выпальвання драўнянага вугалю, вытворчасці паташу. Былі пашыраны ў 16 — сярэдзіне 19 ст., гал. чынам у лясістай усх. і паўд. частках Беларусі (Падняпроўе і Палессе). Належалі пераважна буйным землеўладальнікам, якія выкарыстоўвалі працу прыгонных сялян, а пазней і наёмных работнікаў. Асн. катэгорыямі работнікаў на Б. былі *буднікі* — клёпачнікі, карытнікі, палівачы і інш.; абслуговы персанал — конюхі, кавалі, бондары, цагельнікі і інш.; адм. апарат — атаман, пісар, скарбнік (шафар) і наглядчык (дазорца). На тэр. Б. размяшчаліся вытворчы ўчастак, склады для сыравіны і гатовай прадукцыі, памяшканні для адміністрацыі і абслуговага персаналу.

***Ніна Babakoўская.***

**Буда-Кашалёва**, горад, цэнтр Буда-Кашалёўскага р-на, Рэспубліка Беларусь. Бярэ пачатак ад в. Буда, якая ў 1824 уваходзіла ў склад маёнтка Кашалёва. Сяло Кашалёва вядома з 16 ст., уваходзіла ў Гомельскае староства. У 1873 праз тэр. Кашалёўскай вол. Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. прайшла Лібава-Роменская чыгунка. У 1877 пабудавана станцыя Б.-К.

***Валерый Грынявецкі.***

**будакі**, б у д а к і - п а н ы, група насельніцтва бел. паходжання на тэр. былога Лукаянаўскага пав. Ніжагародскай губ. (сучасныя паўд. раёны Ніжагародскай вобл. Расіі). Пачатак утварэння групы Б. быў пакладзены ў 1-й пал. 17 ст. (цараванне Аляксея Міхайлавіча) прымусовым перасяленнем этнічнага бел. насельніцтва, што ў рас. крыніцах 19—пач. 20 ст. было вядома пад назвай «мензелінская шляхта». Назва паходзіць ад занятку гэтых людзей у мінулым будным промыслам (скажонае ад *буднікі*). Велікарускае наваколле называла «Б.» таксама «літвой», «палякамі», «польшчай», «качубеямі» (бо жылі ва ўладаннях былога міністра ўнутр. спраў Качубея). Паводле перапісу 1897, з 995 беларусаў, што жылі ў той час на тэр. былой Ніжагародскай губ., большасць (67,5%) была сканцэнтравана ў Лукаянаўскім пав.



Мясц. фальклорныя з'явы: бытаванне кант-балады «Із-за гор-гары едуць мазуры», своеасаблівых «тавусеня» і зімовых песень і інш.

*Літ.*: Исторический очерк Нижегородского края. Б.м., Б.г.

***Ігар Карашчанка.***

**будаўнічы**, службовая асоба ў ВКЛ, якая наглядала за ўсімі грамадскімі будынкамі. У вял. гарадах Б. выбіралі з членаў магістрата. Апрача нагляду Б. займаўся зборам падаткаў за будынкі.

**Будзівід**, вялікі князь літоўскі ў канцы 13 ст. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1289, калі ён са сваім братам *Бурдзікідам* аддаў г. Ваўкавыск валынскаму кн. Мсціславу Данілавічу, каб захаваць з ім мір. Гісторыкі атаясамліваюць Б. з «літоўскім каралём» *Пукуверам* (Путувер, Лютувер), які ўпамінаецца ў крыжацкіх хроніках пад 1291. Недахоп пэўных звестак выклікаў розныя меркаванні пра Б. Існуе думка, што Б. быў уладаром Аўкштайціі, а яго брат — Жамойці; пашыраны погляд, што Б. стаў вял. князем Літвы пасля смерці Бурдзікіда (пасля 1290). Мяркуецца, што ён памёр у 1294 або 1295; меў сыноў *Віценя*, *Гедзіміна*, *Воіня* і *Фёдара*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Будзіла** Юзаф (?—пасля 1619), ваенны дзеяч ВКЛ, мемуарыст. Харужы мазырскі, каралеўскі палкоўнік. Паходзіў са шляхты Мазырскага пав. Меў значны ваенны вопыт. 2.9.1607 на чале палка з 200 гусараў адзін з першых прыбыў на падтрымку прэтэндэнта на маскоўскі трон Ілжэдзмітрыя I. У вер. 1607 нанёс паражэнне пад Бранскам Кашыну, ваяводу маскоўскага цара Васіля Шуйскага, у кастрычніку разам з Мехавецкім разбіў яго каля Казельска. Пасля падыходу больш значных войск на чале з Я.П.Сапегам і Р.Ражынскім Б. не адыгрываў самастойнай ролі ў ваенных дзеяннях, але захаваў камандаванне палком (у 1610 — 400 казакаў, 600 пяцігорцаў, 200 гусараў). Пасля паходу Жыгімонта III на Смаленск, а С.Жалкеўскага на Маскву частка войск Ілжэдзмітрыя II перайшла на бок караля, але Б. разам з Сапегам застаўся пры самазванцы, а пасля яго смерці (11.12.1610) трымаўся Сапегі і па яго загадзе заняў Перамышль і Ліхвы. У 1611 удзельнічаў у дзеяннях сапегаўскага войска па захопе Масквы. У пач. 1612 прывёў з Растова абоз з харчам і статак і 31.1.1612 далучыўся да абложанага ў Крамлі гарнізона войск Рэчы Паспалітай. Б., як аднаму з начальнікаў гарнізона, быў адрасаваны ліст Дз.Пажарскага з патрабаваннем здаць Крэмль, на што Б. даў рашучую адмову. Пасля здачы Крамля 6.11.1612 Б. знаходзіўся пры Пажарскім, потым у зняволенні ў Ніжнім Ноўгарадзе. Пасля *Дэулінскага перамір'я 1618* у 1619 вярнуўся на радзіму. Далейшы лёс невядомы. Б. — аўтар падрабязнага дзённіка на польскай мове пра падзеі Смутнага часу ў Расіі, дзе шмат унікальнага фактычнага матэрыялу, прыводзяцца тэксты дакументаў і лістоў. Упершыню дзённік апублікаваны ў 1872 М.В.Каяловічам на польскай і рус. мовах, у 1995 надрукаваны Я.Былінскім і Ю.Длугашам.

*Тв.*: Дневник событий, относящийся к Смутному времени (1603—1613 гг.), известный под именем истории ложного Димитрия // Русская историческая библиотека. Т. 1. Памятники, относящиеся к Смутному времени. СПб., 1872; Wojna moskiewska wzniecona i prowadzona z okazji fałszywych Dymitrów od 1603 do 1612 r. Wrocław, 1995.

***Валерый Пазднякоў.***

**буднікі**, катэгорыя работнікаў у Літве, Беларусі і Украіне ў 16—сярэдзіне 19 ст., якія працавалі галоўным чынам па вольным найме на *будах*. Б. набіралі пераважна са збяднелых сялян, якія парвалі сувязі з сельскай гаспадаркай (*бабылі*, людзі лёзныя і інш.). Некваліфікаваныя Б. звычайна выпальвалі попел з драўніны пэўных парод і рыхтавалі дровы ўстаноўленых якасці і памераў (клёпку) для будных печаў. Кваліфікаваныя Б. выварвалі з попелу паташ (палівачы і карытнікі), выпальвалі вугаль для кузняў, рабілі бочкі пад паташ, выконвалі дапаможныя работы (кавалі, бондары, цагельнікі і інш.). За сваю працу Б. атрымлівалі ардынарый (харчы) і грашовую плату, памеры якіх залежалі ад выпрацоўкі, а таксама адзенне (шапку, рукавіцы). Большасць Б. мела свае хаты, бяздомныя жылі па месцы працы ў спец. памяшканнях.

***Васіль Мялешка.***

**Будны** Беняш, пісьменнік, перакладчык і каментатар твораў антычных аўтараў канца 16—пач. 17 ст. Нарадзіўся, відаць, у мяст. Лоск або паблізу яго. У 1588 запісаўся ў Каралявецкі ун-т як «Беньямін Будны, літоўскі шляхціц». Жыў пры двары бел. магнатаў — навагародскага ваяводы Ф.І.Тышкевіча і яго пляменніка А.Храптовіча. З 1594 служыў аканомам у М.К.Радзівіла Сіроткі. Адначасова займаўся пісьменніцкай і перакладчыцкай дзейнасцю. У 1599 у Вільні ў друкарні Я.Карцана выйшла фундаментальная праца Б. «Кароткія і ясныя аповесці, якія па-грэчаску называюцца «Апафегматы» — філасофска-этычныя сентэнцыі з нагоды вучэння або жыцця антычных філосафаў, палітыкаў, мудрых мужчын і жанчын з твораў Дыягена Лаэрцкага, Плутарха, Цыцэрона і інш. У 17 ст. яна вытрымала 11 выданняў (любчанскае выданне 1614 было значна пашырана за кошт дадатковых філас. матэрыялаў), у 1711 па загадзе Пятра I перакладзена на рус. мову і надрукавана ў Маскве. Пераклаў на польск. мову трактаты Цыцэрона «Пра старасць» і напісаў да яго прадмову (1595, 2 выд. 1603) і «Пра дружбу» (1603, 2 выд. 1606). Характар пісьменніцкай дзейнасці Б., яго творы сведчаць пра секулярызацыю грамадскага жыцця і культуры Беларусі канца 16—пач. 17 ст., усё большую цікавасць да свецкай думкі, антычнай філасофіі. Асаблівасць яго інтэрпрэтацыі — тэндэнцыя да хрысціянізацыі антычнай этыкі, збліжэння яе з евангельскім маральным вучэннем. На падставе сінтэзу духоўных каштоўнасцей антычнасці і хрысціянства Б. спрабаваў выпрацаваць агульначалавечыя прынцыпы і нормы маралі, карысныя для ўсіх эпох; прыйшоў да высновы, што, каб весці дабрачыннае жыццё, не абавязкова быць хрысціянінам, але ж неабходна «валодаць светам натуральнага розуму»; лічыў, што чалавек павінен жыць у адпаведнасці са сваёй прыродай — разумна і маральна. Розум павінен спалучацца з ведамі. Менавіта філасофія ўзнімае чалавека да ўзроўню маральнай дасканаласці, вучыць правільна паводзіць сябе ў жыцці. У адпаведнасці з хрысціянскай і стаічнай этыкай ён лічыў, што чалавек павінен задавальняцца тым, што ён мае, ведаць меру ў карыстанні матэрыяльнымі каштоўнасцямі. У вершы «На герб паноў Храптовічаў» сярод найб. важных дабрачыннасцей Б. называў мужнасць, мудрасць, годнасць, чалавечнасць, шчодрасць, слаўныя гонар, знатнасць. Маральнымі заганамі лічыў непамяркоўнасць, несправядлівасць, баязлівасць, марнатраўства, сквапнасць, падлізванне і інш. Зрабіў спробу асэнсаваць грамадскі інстытут мецэнацтва. Ён пісаў, што быць апекуном вучоных і пісьменнікаў — вялікі

гонар, і толькі дабрачынны, адукаваны чалавек, які любіць сваю Бацькаўшчыну, можа заслужыць такі гонар. У сваю чаргу пісьменнікі, мастакі, вучоныя, якія прысвячаюць мецэнатам свае творы, робяць іх імёны бессмяротнымі.

*Літ.*: Падокшын С.А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003.
***Сямён Падокшын.***

**Будны** Сымон (каля 1530, в. Буды—13.1.1593), бел. мысліцель-гуманіст эпохі Адраджэння, рэфарматар, тэолаг, філолаг, гісторык, паэт, філосаф, педагог; прадаўжальнік культ.-асветніцкай, нац.-паліт. і філас. традыцыі Ф.*Скарыны*. Скончыў факультэт вольных мастацтваў Кракаўскага ун-та (паступіў у 1544), магчыма, і тэалаг. факультэт Базельскага ун-та. У 1558 па запрашэнні М.Радзівіла Чорнага прыехаў у Вільню, выкладаў на бел. мове катэхізіс у пратэстанцкай школе. З 1560 кальвінісцкі прапаведнік у Клецку. Разам з Л.*Крышкоўскім*, М.*Кавячынскім* і яго братамі заснаваў *Нясвіжскую друкарню*, дзе ў 1562 выдаў на бел. мове кнігі «Катэхізіс» і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам». У 1563—64 вёў перапіску з рус. правасл. багасловам Арцеміем, быў асабіста знаёмы з І.*Фёдаравым* і П.*Мсціслаўцам*. Б. належаў да памяркоўнай рэлігійна-рэфармацыйнай плыні, блізкай да кальвінізму, якая ў ВКЛ мела назву евангелічнай. Але ў пач. 1560-х г. у яго ўзніклі сумненні наконт трактоўкі асн. палажэнняў хрысціянскай дагматыкі. У 1563 у лісце да цюрыхскага тэолага Г.Булінгера Б. з пазіцый фармальнай логікі крытыкаваў догмат Тройцы ў каталіцкай і кальвінісцкай інтэрпрэтацыі. У сярэдзіне 1560-х г. стаў адным з ідэолагаў антытрынітарызму — радыкальнай плыні ў бел.-літ. Рэфармацыі. Удзельнічаў у рабоце сінодаў бел., літ. і польскіх арыян, у вострых дыскусіях абараняў свае рэлігійна-філас. і сац.-паліт. вучэнне. У 1565 пасля смерці М.Радзівіла Чорнага пераехаў у Хоўхла, маёнтак Кішкаў. Займаўся працай па перакладзе на польскую мову і крытычным даследаванні Біблії (выд. ў 1572, аднак выдаўцы не змясцілі яго прадмовы і каментарыяў да Новага запавету). Восенню 1573 новы мецэнат Б. арыянін Я.Кішка прапанаваў яму пасаду міністра ў Лоску і аддаў у яго распараджэнне *Лоскую друкарню*. У 1574—75 тут выдадзены Новы запавет з прадмовай і каментарыямі Б., уласныя творы на лац. мове



С.**Будны** ў пекле. Фрагмент гравюры з кн. С.Рэшкі «Пра атэізм і пустаслоўе евангелікаў». Неапаль, 1596.

«Пра дзве сутнасці Хрыста», «Супраць хрышчэння дзяцей», «З нагоды аргументаў Сімлера», «Кароткі доказ, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам, як айцец...» і інш. У рэліг.-філас. творы «Пра галоўныя палажэнні хрысціянскай веры» (1576) абагульніў свае радыкальныя ідэі. Пераклаў з франц. мовы на польскую твор Э.Фрыза «Пра фурыі, або Французскія вар'яцтвы» (1576) пра падзеі Варфаламееўскай ночы, ініцыятар выдання і аўтар прадмовы да твора Анджэя Фрыча Маджэўскага «Аб выпраўленні Рэчы Паспалітай» (1577). У 1583 Б. апублікаваў твор «Пра свецкую ўладу», каштоўную крыніцу па гісторыі бел.-літ. Рэфармацыі і грамадска-філас. думкі. За гэта выступленне ў друку выключаны з брацкай абшчыны і выдалены з Лоска. Апошнія гады жыў пры дварах выпадковых мецэнатаў. У падрыхтаванай 2-й рэдакцыі Новага запавету (1589), выпраўленай і перапрацаванай, Б. перакрэсліў многія свае погляды і пайшоў на кампраміс са сваімі ранейшымі апанентамі. У 1589 удзельнічаў у дыспуце супраць езуітаў у Полацку, супрацоўнічаў з Я.Л.*Намыслоўскім*. Памёр у Вішневе.

Рэліг.-філас. погляды Б. былі наватарскія і не мелі прэцэдэнту ў еўрап. думцы. Ім зроблена спроба рэвізіі артадаксальнага вучэння пра Бога ў духу дэізму. Б. адхіліў традыц. вучэнне аб Тройцы і абвясціў сапраўдным толькі Бога «Айца», а Бога «Духа» ператварыў з самастойнай і раўназначнай субстанцыі ў атрыбут і творчую сілу Бога «Айца». Найб. радыкальна ён абышоўся з Хрыстом: выключыў яго з надсусветнага пачатку, абверг яго боскае паходжанне і прыйшоў да высновы, што ён быў не Богам, а самаадданым прапаведнікам, высокамаральным чалавекам, за што і быў надзелены боскімі ўшанаваннямі. Б. адхіліў думку пра тое, што ў Старым запавеце ёсць указанне пра будучае нараджэнне Хрыста. Рацыяналістычна-натуралістычна трактаваў і паняцці замагільнага свету, біблейскіх цудаў, бессмяротнасці душы. Лічыў, што вера можа быць абгрунтавана рацыянальным спосабам, а ў выпадку канфлікту паміж розумам і верай перавагу аддаваў розуму. Ісціна, паводле Б., знаходзіцца ў Свяшчэнным пісанні ў згорнутым выглядзе, адкуль яе неабходна здабыць і адэкватна перадаць, дзеля чаго патрэбна пэўная культура і адукаванасць. Б. ўспрыняў рацыяналістычны метад, які дазваляў пры даследаванні біблейскіх тэкстаў падвяргаць іх лагічнаму, філалагічнаму, гіст. і натуралістычнаму аналізу. Ён асуджаў аўтарытарызм і дагматызм у мысленні, інтэлектуальную нецярпімасць і рэліг. фанатызм як каталіцкіх, так і пратэстанцкіх царкоўных і паліт. дзеячаў, тэолагаў. Уласцівы Б. погляд на Хрыста як на выдатнага чалавека, які дзякуючы сваім высокім маральным якасцям быў удастоены «боскасці», падводзіў да думкі, што гэтая магчымасць патэнцыяльна зберагаецца за кожным смяротным чалавекам, які імкнецца дасягнуць маральнага ўдасканалення. Хрысталогія Б. — своеасаблівае адлюстраванне рэнесансавай канцэпцыі аб тым, што чалавек намаганнем асабістай волі можа стаць падобным на Бога. Сац.-паліт. погляды Б. былі памяркоўна-гуманістычныя. Асаблівасцю іх былі пазітыўныя адносіны да існуючых грамадскіх і дзярж. інстытутаў, пераўтваральная дзейнасць меркавалася толькі ў межах наяўнага соцыуму, змяненню падлягала не сістэма ў цэлым, а яе элементы. Б. прызнаваў прыватную ўласнасць, разам з тым прапаноўваў радыкальную рэформу ўсёй сістэмы царкоўнага землеўладання: зямля павінна належаць не манастырам, але царкоўным абшчынам, а даходы ад яе ісці на школьную адукацыю, утрыманне настаўнікаў, бедных вучняў, прапаведнікаў, будаўніцтва бальніц і дамоў для старых. Ухваляў існуючыя феад. адносіны і нават прыгонніцтва, быў рашучым праціўнікам супраціўлення сялян сваім гаспа-

дарам, аднак не апраўдваў крайнасцей феад. ладу, яго найб. жорсткіх праяў. Б. быў прыхільнікам сац. гармоніі, мірнага суіснавання ўсіх саслоўяў феад. грамадства. Кожны, лічыў ён, павінен займаць пэўнае, адведзенае яму гіст. абставінамі месца ў грамадстве. Дзярж. ўлада з'яўляецца боскім устанаўленнем і ёй неабходна падпарадкоўвацца. Паліт. ідэалам для Б. з'яўляўся, на ўзор Платона, «філосаф на троне» — асветны манарх, які «павінен акружаць сябе мудрымі і вучонымі людзьмі». Войны ён падзяляў на справядлівыя, у якіх рэкамендаваў удзельнічаць, і несправядлівыя, якія асуджаў. Заклікаў клапаціцца аб развіцці бел. культуры і мовы, разам з тым пісаў пра неабходнасць засваення ўсёй сукупнасці еўрап. культуры. Быў таленавітым літаратарам (пісаў на бел., польскай і лац. мовах), празаікам, паэтам, перакладчыкам, абгрунтоўваў думку пра пазнавальнае значэнне мастацтва і яго маральна-выхаваўчую ролю.

*Тв.*: O urzędzie miecza używającem. Warszawa, 1932; O przedniejszych wiary chrystyjańskiej artykulech. Warszawa; Lodz, 1989.

*Літ.*: Алексютович Н.А. Будный — идеолог гуманизма и реформации в Белоруссии и Литве // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI—нач. XIX в. Мн., 1962; Парэцкі Я.І. Сымон Будны. Мн., 1975; Падокшын С.А. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Яго ж. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003; Яго ж. Этычная думка ў культуры Беларусі XVI—XVII стст. Мн., 2004; Саверчанка І.В. Сымон Будны: Гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993; Kamieniecki J. Szymon Budny — zapomniana postać polskiej Reformacji. Wrocław, 2002.

*Сямён Падокшын.*

**Будслаўскі абраз Маці Божай**, адзін з найбольш шанаваных каталіцкіх абразоў Беларусі. Знаходзіцца ў касцёле Ушэсця Маці Божай у в. Будслаў (гл. *Будслаўскі кляштар бернардзінцаў*). Паводле касцельнай гісторыі, падараваны ў 1598 папам рымскім Кліментам VIII менскаму ваяводу Яну Пацу з нагоды яго пераходу з кальвінізму ў каталіцтва. Пасля смерці Паца абраз перайшоў да капелана І.Салакая, які ў 1613 падараваў яго кляштару. Шату для абраза ў 1-й пал. 17 ст. падараваў віленскі гвардыян бернардзінцаў Ф.Калецкі. Абраз праславіўся



Будслаўскі абраз Маці Божай.

цудамі вылечвання, якія апісаў настаяцель Э.Зеляевіч у кн. «Задыяк на зямлі» (1650). У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 абраз часова быў вывезены ў мяст. Саколка (Беласточчына). Бернардзінцы Літоўскай правінцыі прапагандавалі культ абраза, з пач. 19 ст. друкавалі з яго гравюры. Пасля скасавання кляштара ў 1859 вядомасць абраза зменшылася. З пач. 1990-х г. аднаўляецца яго культ, адбываюцца паломніцтвы пілігрымаў, прымеркаваныя да 2 ліпеня. 2.7.1996 папскі нунцый арцыбіскуп Д.Грушэўскі абвясціў папскае пасланне, у якім Маці Божая Будслаўская названа патронкай Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі, г.зн. Беларусі. Абраз намаляваны алеем на палатне памерам 72 х 65 см, іканаграфічна належыць да зах.-еўрап. тыпу Адзігітрыі. Рэстаўрыраваны ў 1991—92 В.Лукашэвічам.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Будслаўскі кляштар бернардзінцаў**. Існаваў у 16—1-й пал. 19 ст. ў в. Будслаў Мядзельскага р-на. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1504, калі вял. кн. Аляксандр даў віленскім бернардзінцам 6000 моргаў лесу ў Менскім пав. для нарыхтоўкі дроў. Манахі Б.к.б. жылі па 2—4 чалавекі ў шалашах («будах»), мелі капліцу. У 1591 пабудаваны драўляны касцёл Наведання Марыяй Лізаветы, у якім знаходзіўся цудатворны *Будслаўскі абраз Маці Божай*, прывезены ў 1598 Я.Пацам з Рыма (дар папы Клімента VIII). У 1643 пабудаваны новы касцёл (фундатар гетман польны ВКЛ, ваявода полацкі Я.Кішка). Цудатворны абраз знаходзіўся ў цэнтры драўлянага разнога алтара. У 1750 пабудаваны жылы корпус кляштара. 29.6.1767 закладзены новы касцёл (3-нефавая безапсідная 2-вежавая базіліка з трансептам), у яго аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўвайшоў як бакавая капліца касцёл св. Варвары, пабудаваны ў 1643. У 1783 касцёл асвячоны ў гонар свята Унебаўзяцця Маці Божай. На працягу 2-й пал. 18 ст. прыбудоўвалі розныя кляштарныя будынкі. Фундатары кляштара Ю.Карахоўскі, ваявода Агінскі, А.Гутаровіч, А.Укольскі, Б.Скарульская (пералічыла 2 тыс. злотых на арган, пазней яшчэ 44 тыс. злотых). Парафія ўпершыню ўпамінаецца ў 1788. У 1793—1842 пры кляштары працавалі 2-класная школа (да 25 вучняў), шпіталь. З 1756 працавала муз. школа (каля 15 вучняў, па фундацыі Скарульскай). У 1731—97 у духоўнай школе Б.к.б. 7—10 слухачоў, вывучалі тэалогію маральную і рыторыку. Колькасць манахаў 4—17. Касцёл захаваўся як парафіяльны. Побач з ім стаіць будынак плябаніі 19 ст.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Бужынскі** Станіслаў Антоній (28.4.1700—15.5.1775), дзяржаўны дзеяч і прававеда Рэчы Паспалітай.

Скарбнік смаленскі, інстыгатар ВКЛ у 1732—48, кашталян берасцейскі ў 1748—52 і смаленскі ў 1752—63; староста краснасельскі; пасол на соймы 1732, 1733 (выступаў там за абранне на трон Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага), 1738, 1740, 1744, 1746, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1736. Выдаў зборнік прывілеяў Віленскай акадэміі «Academia et Universitas Viln. S.J. privilegiis, constitutionibus, decretis erecta, aucta, roborata» (Вільня, 1736) і некалькі прац у абарону езуітаў. Пасля смерці жонкі адышоў ад паліт. жыцця, уступіў у ордэн езуітаў (1763). Гал. твор Б. — кн. «Збор усіх соймаў і законаў польскіх, якія датычаць асноў, ад пачатку саймавання аж да нашых часоў прынятыя» («Zebranie wszystkich sejmów i praw polskich, ad statum ściągających się, które od początku sejmowania aż do naszych czasów są postanowione», Варшава, 1765) — выдаў яго сын Т.*Бужынскі*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Бужынскі** Тадэвуш (?—1773), дзяржаўны дзеяч і дыпламат Рэчы Паспалітай. Сын С.А.*Бужынскага*. Вучыўся ў езуіцкім «Калегіум нобіліум» у Варшаве. Пасол на сойм 1760, староста краснасельскі, ротмістр войска ВКЛ, у 1763—70 кашталян смаленскі, з 1770 ваявода менскі. Належаў да групоўкі Чартарыйскіх і ў 1764 быў у складзе дэлегацыі да імператрыцы Кацярыны II. На канвакацыйным сойме 1764 прызначаны ў склад камісіі па пераглядзе паўнамоцтваў і рэгламенту Трыбунала ВКЛ. У 1764—66 чл. Скарбовай камісіі ВКЛ. Маршалак Трыбунала ВКЛ 1766, за час яго працы набыў вядомасць сваім сумленнем і ўменнем уладжваць судовыя спрэчкі. На сойме 1768 уваходзіў у склад дэлегацыі па выпрацоўцы «Вечнага» дагавора з Расіяй. Ажыццявіў прыватнае падарожжа ў Англію. У 1769 пасланы Сенатам з дыпламатычнай місіяй у Галандыю і Англію, каб забяспечыць Рэчы Паспалітай падтрымку пры пецярбургскім і стамбульскім дварах. З 1771 у Італіі, памёр у Фларэнцыі.

***Валерый Пазднякоў.***

**буздыган**, гл. *Пярнач*.

**Буйніцкая бітва 1595**. Адбылася ў снежні каля в. Буйнічы непадалёку ад Магілёва паміж казацка-сялянскім атрадам С.Налівайкі і войскам ВКЛ у час *Налівайкі паўстання 1595—96*. У снеж. 1595 атрад Налівайкі авалодаў Магілёвам. Улады ВКЛ сабралі 18-тысячнае войска на чале з рэчыцкім старастам М.Буйвідам. 2 тыс. паўстанцаў, узброеных 20 гарматамі і ружжамі, прынялі бой на Буйніцкім полі і на працягу дня адбівалі атакі ўрадавага войска. Пасля бітвы з-за недахопу сіл казакі адступілі да Быхава.

**Буйніцкі Святадухаўскі манастыр**. Існаваў у 1633—1918 на правым беразе Дняпра на Пн ад в. Буйнічы пад Магілёвам. Заснаваны як мужчынскі Багданам Статкевічам і яго жонкай Аленай (Саламярэцкай). У правілах агульнага жыцця арыентаваўся на *Віленскі Святадухаўскі манастыр*. Належаў да групы манастыроў, заснаваных ва ўсх. Беларусі з мэтай процідзеяння распаўсюджанню уніяцтва. Нагляд за манастыром ажыццяўляў куцеінскі ігумен Іаіль Труцэвіч. У 1652 навагародскі кашталян М.Статкевіч («дедич маетности Барколабовское») падзяліў папалам паміж Б.С.м. і жаночым Баркалабаўскім манастыром вёскі Касцёнкі і Халмы, даўшы кожнаму па 50 валок зямлі. Буйніцкі намеснік Самуіл безвынікова спрабаваў аспрэчваць гэта рашэнне. Спрэчка за фундушавыя вёскі паміж манастырамі вырашана ў 1759 падканцлерам М.Сапегам і магілёўскім епіскапам Георгіем Каніскім. Існуе шэраг каралеўскіх грамат у абарону манастыра ад суседзяў на валоданне зямельнай уласнасцю. За агітацыйныя дзеянні сярод насельніцтва на вернасць каралю Яну II Казіміру ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 буйніцкія манахі атрымалі прывілей на млын. У 1708 у час Паўночнай вайны 1700—21 манастыр цалкам разбураны шведамі, але хутка адбудаваны. З 1835 пераўтвораны ў жаночы. Будынкі не захаваліся.

*Літ.*: Археографический сборник документов... Т. 2. Вильна, 1867; Игнатьев Р. Антиминис Буйницкого монастыря Литовской Руси, находящийся в Уфе // Древности: Труды Московского археологического общества. М., 1870. Т. 2; Жудро Ф. Буйничский Свято-Духов монастырь. Могилев-на-Днепре, 1904.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**буквар**, азбука, падручнік для пачатковага навучання грамаце (чытанню, пісьму). З узнікненнем пісьменнасці да 2-й пал. 16 ст. для навучання грамаце выкарыстоўвалі прыкладныя дапаможнікі з алфавітным радам (дошчачкі, берасцяныя сшыткі і інш.), а таксама пісьмовыя азбучныя акравершы («азбука граница»). Практыкаваліся ў чытанні на царк.-рэліг. кнігах (псалтыры, часаслоўцы, апосталы). У ВКЛ выдаваліся буквары на бел., царк.-слав., літоўскай і польскай мовах. 1-ы ўсх.-слав. Б. выдаў І.Фёдараў (Львоў, 1574; у 1578 перавыдадзены ў Астрогу). З 1590-х г. да 1653 на Беларусі выйшла 16 Б. — больш за палавіну падобных выданняў на ўсх.-слав. землях. Тэрмін «Азбука» ў загалоўку кнігі ўпершыню з'явіўся ў віленскім (1596), «Буквар» — у еўінскім (1618) брацкіх выданнях. З 1631 назва Б. пастаянная ў бел. кнігадрукаванні. Найстарэйшыя бел. Б. (да сярэдзіны 17 ст.) уяўляюць сабой 5 рэдакцый (з разнавіднасцямі). У аснову «фёдараўскай» пакладзена астрожскае выданне Фёдарава; да гэтага віду адносяцца Б. Мамонічаў (Вільня, сярэдзіна 1590-х г.), «Часоўнік і Азбука» (Вільня, брацкая друкарня, 1596). 2 рэдакцыі не маюць аналагаў: «Начало учениа детем» (друкарня Мамонічаў, каля 1593—1601) і «Наука ку читаню и розуменю писма словенского» Л. і С. Зізаніяў (брацкая друкарня, 1596). 4-я рэдакцыя ўключае 3 выданні «Грамматики словеньскаго языка» (друкарня Мамонічаў, 1618—21), а 5-я, у аснову якой пакладзены еўінскі Б. 1618, — 10 выданняў (9 выйшлі ў 1631—53 у друкарнях С.Собаля і брацкіх у Куцейне, Магілёве, Вільні). Стваравіся Б. паводле літараскладальнага метаду, які панаваў у Еўропе ў сярэдневякоўі і ў новы час да 1830-х г. Усх.-слав. Б. трымаліся таксама традыцый стараж.-рус. і ўсх.-слав. педагогікі 12—16 ст. У тыповую структуру бел. Б. ўваходзілі: алфавітныя рады (у прамым і адваротным парадку), склады (пачынаючы з 2-літарных да «девятериц»), тлумачальныя азбукі (першыя звязныя тэксты для чытання), элементы граматыкі, дыдактычны матэрыял (у канцы кнігі). Найб. арыгінальны паводле структуры буквар Зізаніяў. Ён складаецца з алфавіта царк.-слав. мовы, двух- і трохлітарных складоў, малітваў для чытання, сімвала веры (кароткага зводу гал. догматаў, якія складаюць аснову веравучэння), тлумачальнага слоўніка «Лексиса», твора С.Зізанія «Изложение о православной вере».

1-ы літоўскі Б. быў састаўной часткай «Катэхізіса» М.Мажвідаса (Каралявец, 1547) і наз. «Танная і кароткая навука чытаць і пісаць», 2-і літоўскі Б. — катэхізіса «Пачатак пропаведзі для маленькіх дзетак... Катэхізіс малы...»,

падрыхтаванага кальвіністамі ВКЛ (магчыма, С.Бітнерам) і выдадзенага ў 1680 у Караляўцы на сродкі Л.К.Радзівіл (распаўсюджваўся ў кальвінісцкіх школах паўн. Літвы). У 1708 у Караляўцы для лютэранскіх школ Малой Літвы выдадзены буквар «Літары» (не захаваўся). Побач з ім у школах да 1747 выкарыстоўваліся насценныя алфавіты. У каталіцкіх школах ВКЛ да сярэдзіны 18 ст. карысталіся выданнямі катэхізісаў, якія не былі спецыяльна прыстасаваны як Б. Паводле некат. звестак, у 1752 у Вільні ў друкарні францысканцаў выдадзены «Элементарчык жамойцкі» (не захаваўся). 1-ы вядомы каталіцкі Б. «Навука чытання пісьма польскага для маленькіх дзетак» выдадзены ў Вільні каля 1759—61. Ён змяшчаў паралельныя тэксты на польскай і літоўскай мовах. З яго пачалося сістэматычнае выданне літоўскіх Б. для пачатковых школ ВКЛ. У выданні 1783 і больш позніх польскі тэкст адсутнічае, Б. наз. «Навука чытання пісьма літоўскага для маленькіх дзетак» (выд. да 1864, вытрымаў каля 70 перавыданняў). У яго ўваходзілі алфавіт, катэхізіс, малітвы і царк. песні. Захавалася 46 выданняў літоўскага Б.

*Літ.*: Лексис Лаврентія Зизанія. Синоніма славенороссская. Київ, 1964; Зизаній Л. Граматика словенська. Київ, 1980; Исаевич Я. Острожская «Азбука» Ивана Федорова // Книга: Исслед. и материалы. М., 1968. Сб. 16; Немировский Е.Л. Азбука 1574 г. Азбука 1578 г. // Проблемы школьного учебника. М., 1974. Вып. 2; Ботвинник М.Б. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973; Его ж. Откуда есть пошел букварь. Мн., 1983; Яго ж. Азбука на ўсе часы. Мн., 2003; Яскевіч А.А. Старабеларускія граматыкі: Да праблемы агульнафілалагічнай цэласнасці. Мн., 1996; Грамматики Лаврентия Зизания и Мелетия Смотрицкого. М., 2000; Lietuviški elementoriai. Kaunas, 2000.

***Томас Баранаўскас, Георгій Галенчанка.***

**булава**, зброя блізкага бою з акруглым ці шматгранным навершам, выкананым з металу і забяспечаным адтулінай пасярэдзіне для насаджвання на драўляную ці, радзей, металічную рукаяць. У ВКЛ былі вядомыя Б. з шарападобнымі навершамі як знак княжацкай ці вайсковай улады, дыпламатычнага прадстаўніцтва. Не выключана, што для баявых патрэб маглі выкарыстоўвацца шарападобныя Б., забяспечаныя шыпамі. Узоры такой зброі, датаваныя 14—16 ст., ёсць у зборах Нац. музея Літвы ў



Парадная **булава**.
2-я пал. 17 ст.

Вільнюсе, але сувязь іх з ВКЛ невыразная. У ВКЛ маглі выкарыстоўвацца Б. з навершам у выглядзе куба са зрэзанымі вугламі (вядомы на Украіне ў дамангольскі час, у Польшчы яны ўжываліся яшчэ ў 15 ст., у Маскоўскай дзяржаве — да сярэдзіны 17 ст.). У пераносным значэнні тэрмін «Б.» абазначаў у ВКЛ пасаду *гетмана*: «вялікая Б.» — вял. гетман, «Б. меншая» — польны гетман.

*Літ.*: Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002.

***Юрась Бохан.***

**Булгак** Іасафат [свецкае Ігнацій; 20.4.1758, Слонімскі пав.—25.2(9.3).1838], беларускі царкоўны дзеяч. З шляхецкага роду герба «Сыракомля» зменeная. У 1763—74 вучыўся ў Жыровіцкай базыльянскай школе (Слонімскі пав.). З 1774 член уніяцкага ордэна базыльян. У 1782—85 вучыўся ў Рыме, дзе стаў д-рам тэалогіі і кананічнага права. Выкладаў у манастырскіх школах у Беразвеччы і Жыровічах. З 1789 каад'ютар Пінскай епархіі, у 1790—99 епіскап тураўскі. У час царавання Паўла І, ва ўмовах лібералізацыі ўрадавай палітыкі адносна уніятаў, Б. зрабіў шэраг захадаў па вяртанні ў унію парафій, якія перайшлі ў праваслаўе; у 1797 паслаў папскаму нунцыю ў Расіі Л.Літу запіскі аб уціску уніятаў у Кіеўскай і Пінскай епархіях. У 1799—1828 епіскап берасцейскі (рэзідэнцыя ў Навагрудку, з 1810 у Жыровічах). Грэка-каталіцкі Кіеўскі мітрапаліт з 1817. З 1818 Б. таксама старшыня 2-га (уніяцкага) дэпартамента Рымска-каталіцкай духоўнай калегіі ў Пецярбургу, з 1828 старшыня асобнай Грэка-уніяцкай калегіі. З 1833 адначасова архіепіскап полацкі. Імкнуўся ўзвысіць значэнне базыльян у царкве (прызначэнне іх прадстаўніка ў члены 2-га дэпартамента ў 1819, праект аб'яднання Літоўскай і Беларускай правінцый ордэна і інш.). Узмацненне ва ўнутранай палітыцы царызму рускіх нацыяналіст. тэндэнцый з сярэдзіны 1820-х г. прывяло да змяншэння ролі уніяцкай царквы і асабіста Б. У яго акружэнні пачалі пераважаць маладыя дзеячы (І.Сямашка, А.Зубко, В.Лужынскі і інш.), якія ўзялі курс на збліжэнне, а ў далейшым і ўз'яднанне з праваслаўнай царквой. Падзеі апошніх гадоў жыцця Б. (урадавая



І.**Булгак**.
Мастак І.Ф.Хруцкі. 1838.

рэформа кіравання уніяцкай царквой 1828, вымушанае асуджэнне мітрапалітам паўстання 1830—31 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве і інш.) канчаткова падарвалі яго ўплыў і аўтарытэт. Смерць Б. з'явілася непасрэднай прычынай скасавання уніі.

*Літ.*: Бобровский П.О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. СПб., 1890; Рункевич С. История Минской архиепископии (1793—1832 г.). СПб., 1893.

***Валерый Антонаў, Алена Філатава.***

**Булевічы**, літоўскі княжацкі род, прадстаўнікі якога Вішымут, Едзівіла і Спрудзейка ўдзельнічалі ў падпісанні з Уладзіміра-Валынскім княствам *дагавора 1219*, скіраванага супраць Польшчы. Пра Вішымута летапісец адзначыў, што кн. Міндоўг забіў яго з братамі і ажаніўся з яго ўдавой. На думку рас. гісторыка І.Бяляева, Б. разам з *Рушкавічамі* валодалі тэр. ад Вілії да Нёмана і Свіслачы (заход-

няй), на У — да Бярэзіны (дняпроўскай). Літ. гісторык Э.Гудавічус лічыць, што Б. валодалі Шаўліскай зямлёй. На думку М.Ермаловіча, іх уладанні ляжалі ў Верхнім Панямонні на ПнУ ад Навагародка.

*Валерый Пазднякоў.*

**бунчук** (цюрк.), старадаўняя вайск. рэгалія ў выглядзе дрэўка з шарам ці вастрыём на верхнім канцы, з пасмамі конскіх валасоў і 2 сярэбранымі кутасамі. Меў значэнне сцяга ці сімвала ўлады і знака годнасці турэцкіх пашоў, у 16—18 ст. — гетманаў ВКЛ і Польшчы, казацкіх атаманаў.

**Бурдзейка** Андрэй Вікенцьевіч [8(20).6.1899, Мінск—1941], беларускі гісторык. Скончыў БДУ (1925). Працаваў навук. супрацоўнікам Бел. дзярж. музея. Даследаваў пераважна зямельнае права і прававое становішча сялянства ў феад. эпоху. На аснове аналізу Статута 1566 даказваў існаванне прыгонніцтва ў ВКЛ. Аўтар прац па сац.-эканам. гісторыі Беларусі, у т.л. нарыса гісторыі Навагародка, дзе ўпершыню ў бел. гістарыяграфіі адзначыў яго ролю як сталіцы ВКЛ у 13 ст. 19.7.1930 арыштаваны, 10.4.1931 асуджаны да 5 гадоў ссылкі ў г. Елабуга. Рэабілітаваны ў 1957.

*Тв.*: Землеўласьнік і земляроб па Літоўскаму статуту 1566 г. // Працы БДУ. Мн., 1927. № 14—15; 1928. № 20; Нарыс соцыяльна-экономічнага жыцьця места Наваградку ў XVI сталецьці // Гістарычна-архэолёгічны зборнік. Мн., 1927. № 1; Прыказ Вялікага Княства Літоўскага: (Фонд установы і функцыі) // Зап. аддзела гуманітарных навук Бел. АН. Мн., 1929. Кн. 8; Беларускі дзяржаўны культурна-гістарычны музэй у Менску: Гіст. аддз.: Правадністоўка. Мн., 1930.

*Літ.*: Пичета В.И. Изучение Литовских статутов в новейшей историко-юридической литературе (1918—1940 гг.) // Пичета В.И. Белоруссия и Литва в XV—XVI вв. М., 1961; Копысский З.Ю., Чепко В.В. Историография БССР: Эпоха феодализма. Мн., 1986; Иоффе Э.Г. Из истории белорусской деревни. Мн., 1990.

*Зіновій Капыскі.*

**Бурдзікід**, вялікі князь літоўскі ў канцы 13 ст. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1289, калі ён са сваім братам *Будзівідам* аддаў г. Ваўкавыск валынскаму кн. Мсціславу Данілавічу, каб захаваць з ім мір. Даследчыкі атаясамліваюць Б. з «каралём» Бутэгейдэ, які ўпамінаецца ў лісце магістра Лівонскага ордэна ў ліст. 1290. Адсутнасць інш. звестак выклікала розныя меркаванні пра характар улады Б. Згодна з адным пунктам погляду, Б. правіў у Жамойці, а Будзівід — у Аўкштайціі. Існуе меркаванне, што Б. стаў вял. князем Літвы пасля гібелі ў 1285 вял. кн. *Даўмонта*, памёр каля 1290—92, пасля чаго гаспадаром Літвы стаў яго брат Будзівід.

*Валерый Пазднякоў.*

**бурмістр** (ад ням. Bürgermeister), выбарная асоба ў *магістрат* гарадоў з магдэбургскім правам, якая ўзначальвала гар. *раду*. У абавязак Б. ўваходзіла загадванне гар. скарбам, старшынства на пасяджэннях *бурмістраўска-радзецкага суда*, які разбіраў маёмасныя спрэчкі гараджан. *Войт* і прызначаныя ім выбаршчыкі (12—20 чал.) выбіралі на пасаду Б. гараджан з заможных вярхоў гар. насельніцтва — купецтва, цэхмістраў. У 16—1-й пал. 17 ст. пабольшала роля сходу гараджан у працэдуры выбараў рады і яе галавы. Сход прапаноўваў некалькі кандыдатур, з якіх войт зацвярджаў на гэту пасаду аднаго, часцей 2 чал. Б. выбіралі тэрмінам на 1 год, пасля сканчэння якога ён рабіў справаздачу перад радай. З цягам часу ўстанавіўся прынцып справаздачы Б. на агульным сходзе гараджан.

*Літ.*: Дружчыц В. Магістрат у беларускіх местах з майдэборскім правам у XV—XVII стст. Мн., 1929; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975.

*Зіновій Капыскі.*

**бурмістраўска-радзецкі суд**, мясцовы суд для гараджан у ВКЛ. Дзейнічаў адначасова з *войтаўска-лаўніцкім судом* у гарадах, якія атрымалі прывілей на *магдэбургскае права*. У склад суда ўваходзілі гар. бурмістры і радцы, колькасць якіх залежала ад памераў горада. Суд разглядаў пераважна нязначныя правапарушэнні мяшчан, цяжбы купцоў і рамеснікаў.

*Таісія Доўнар.*

**Бурніцкі** Антоній (1715—21.3.1770), каталіцкі рэлігійны дзеяч, падарожнік. З шляхецкай сям'і ВКЛ герба «Любіч». У 1738 уступіў у Вільні ў ордэн бернардзінцаў, там жа скончыў навіцыят. Займаў розныя ордэнскія пасады, узначальваў кляштары. З 1761 архіварыус Літ. правінцыі. У 1762 адправіўся ў пілігрымку, жыў у Александрыі, у 1763—65 — у Палесціне, гал.ч. у Назарэце, Іерусаліме і Віфлееме. Меў тытул наглядчыка за Трунай Гасподняй. З 1766 у ВКЛ, сакратар Літ. правінцыі. З 1769 узначальваў Цітавянскі кляштар, склаў яго хроніку. Аўтар мемуараў, дзе падрабязна апісаў сваю пілігрымку (частку апублікаваў А.Мухлінскі ў 1857).

*Літ.*: Muchliński A. Opisanie kościoła Grobu Pana Jezusa: (wyjątek z pielgrzymki A.Burnickiego) // Pamietnik religijno-moralny. 1857. T. 32. S. 46—62.

*Валерый Пазднякоў.*

**Бурэмскія**, княжацкі род. Мяркуецца, што родапачынальнік — пінскі кн. Канстанцін Нарымонтавіч, пазбаўлены Пінска вял. князем літоўскім Жыгімонтам Кейстутавічам [1432—40]. Мабыць, ён тоесны кн. Канстанціну — паслу ў 1431 да Ягайлы ад вял. кн. Свідрыгайлы, ад якога, відаць, атрымаў маёнтак Бурэмля (адсюль прозвішча; цяпер Баромель каля г. Дубна ў Луцкім пав). Найб. вядомыя:

Міхаіл Канстанцінавіч (?—пасля 1452), сын Канстанціна Нарымонтавіча. Тытулаваўся князем Пінскім, Альшаніцкім (Альшанскім), Быніскім, зваўся таксама Курцэвічам. Валодаў маёнткамі Альшаніца і Быніск на Галіччыне. У 1452 атрымаў ад Казіміра IV прывілей на айчызныя маёнткі Бурэмля, Навасёлкі, Корсаў, Озыр (Обзыр), Стратын, Змейнец і Навасельцы на Валыні. У 1440 выступае як прыхільнік вял. кн. Свідрыгайлы, з 1442 чл. яго рады, у 1446—51 уладзімірскі староста Свідрыгайлы. У 1443 ад польскага караля Уладзіслава III атрымаў прывілей на апеку над Унеўскім манастыром.

Фёдар (?—пасля 1464), сын Міхаіла Канстанцінавіча. Меў сыноў Сямёна, Льва і Аляксандра, якія тытулаваліся князямі Курцэвічамі і Б.

Дзмітрый Аляксандравіч (?—да 1570), сын Аляксандра Фёдаравіча. Акрамя маёнткаў на Валыні быў адным з саўладальнікаў с. Адрыжын у Пінскім пав. У 1565 выстаўляў у войска 10 коннікаў. Меў сыноў Івана і Аляксандра.

*Валерый Пазднякоў.*

**Бутрымовіч** Мацей (1745—1814), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З шляхецкага роду герба «Тапор». Вучыўся ў Пінскім езуіцкім калегіуме. З маладосці набліжаны да вял. гетмана ВКЛ М.К.Агінскага, служыў у адміністрацыі яго маёнткаў. Паручнік пяцігорскі, касір вайсковы з рангам паручніка ў 1776—82, пінскі канюшы з 1778, мечнік з 1780, суддзя гродскі з 1783, падстараста з 1785, лоўчы з 1791, шамбялян караля Станіслава Аўгуста



Але на гэтай тэрыторыі працягвалася барацьба: сял. атрады самаабароны (паводле рас. тэрміналогіі *шышы*) перашкаджалі рас. дваранам і дзецям баярскім захопліваць і вывозіць у свае маёнткі ў Расію сял. сем'і, рабаваць і паліць вёскі. Радзівіл перадаваў гэтым атрадам зброю, часам каардынаваў іх дзеянні. Спробы Радзівіла заняць Магілёў і Віцебск у лютым і вясной 1655 не далі вынікаў. У час зімовага контрнаступлення войскам ВКЛ удалося вярнуць Копысь, Дуброўну і Оршу. Зімою 1655 у Азярышчах і Суражы мясц. жыхары паўсталі, частку рас. гарнізона перабілі ці ўзялі ў палон. Каб перашкодзіць войску ВКЛ наступаць на Магілёў, у міжрэчча Дняпра і Бярэзіны былі перакінуты казацкія атрады Залатарэнкі, якія ў сак. 1655 захапілі Бабруйск, Каралеўскую Слабаду, Глуск, а пазней і мяст. Свіслач (на р. Бярэзіна).

У маі 1655 пачалася 2-я кампанія гэтай вайны. Гал. задачай рас. войскі ставілі захоп усёй Беларусі і сталіцы ВКЛ Вільні. Група войск стольніка З.Ф.Лявонцьева з баямі зноў заняла Дуброўну, Оршу і Копысь. 7.7.1655 войскі кн. А.І.Лабанава-Растоўскага занялі Лукомль. 13.7.1655 царскія войскі і казакі захапілі Менск. У жн. 1655 армія Трубяцкога спрабавала ўзяць моцную крэпасць Слуцк, але горад выстаяў. Далейшы рэйд яго арміі быў удалым: з баямі ўзяты Клецк, Ляхавічы, Мыш, Мір, Сталавічы, Навагародак. Наступленне рас. войск і казакоў ішло ўздоўж Нёмана. Былі ўзяты Нясвіж, Карэлічы, Стоўбцы, Любча, Ліда, Слонім. Вяртаючыся назад, Трубяцкой і Залатарэнка ў вер. 1655 зноў спрабавалі авалодаць Слуцкам, але вымушаны былі адступіць. 8.8.1655 войскі гал. рас. групоўкі на чале з Чаркаскім і Залатарэнкам штурмам узялі Вільню. У жніўні рас. войскі ўзялі Коўна і Гародню. На Пд Беларусі восенню рас. войскі і казакі занялі Тураў. У выніку кампаніі 1655 рас. войскі занялі б.ч. Беларусі і частку Літвы. Сітуацыя ўскладнілася тым, што ўлетку 1655 на Польшчу напала Швецыя і заняла амаль усю яе тэрыторыю. Радзівіл і значная частка літоўскай і жамойцкай шляхты заключылі *Кейданскі дагавор 1655*, які разарваў дзярж. сувязь ВКЛ з Польшчай і аформіў унію са Швецыяй. Аднак пэўная частка бел. шляхты прынесла прысягу цару Аляксею Міхайлавічу, другая частка на чале з віцебскім ваяводам П.Я.Сапегам захавала вернасць Рэчы Паспалітай. У сак. 1656 унія ВКЛ са Швецыяй была скасавана, а шведскія войскі выведзены з Жамойці. У выніку моцнага нац.-вызв. руху ў Польшчы шведы былі выгнаны з краіны. Рыхтуючыся да вайны са Швецыяй за Прыбалтыку, Расія 3 ліст. заключыла з Рэччу Паспалітай *Віленскае перамір'е 1656*, і ваен. дзеянні былі спынены. Расія прадугледжвала ваен. саюз з Рэччу Паспалітай супраць Швецыі і Брандэнбурга. Цар прапанаваў сваю кандыдатуру ў польскія каралі, што павінна было быць абмеркавана на бліжэйшым сойме. Пасля гэтага Расія пачала вайну са Швецыяй. Аднак сойм 1658 адмовіў цару ў выбранні яго каралём і патрабаваў вярнуць усе занятыя землі. Ваенныя дзеянні аднавіліся.

Землі Смаленшчыны, Беларусі і Літвы былі ўключаны ў склад Рас. дзяржавы, а цар прыняў тытулы «вялікага князя Белай Русі, смаленскага, літоўскага, гасудара і вялікага князя полацкага, віцебскага, мсціслаўскага». Тут была пастаўлена рас. ваенная адміністрацыя на чале з ваяводамі. За шляхтай, якая прынесла прысягу цару, захоўваліся прывілеі (без права выбараў, склікання сойму і павятовых соймікаў). Усіх, хто змагаўся супраць рас. войск, высылалі ў глыб Расіі, за Волгу і ў Сібір; іх маёнткі канфіскоўвалі. У цэлым шляхта была незадаволена і гвалтоўным далучэннем Беларусі да Расіі, і стратай значнай часткі сваіх прывілеяў і вольнасцей. Дзейнасць каталіцкай і уніяцкай цэркваў была забаронена, іх землі канфіскаваны. У 1656 для заспакаення насельніцтва на тэр. на З ад Бярэзіны была дазволена дзейнасць каталіцкай царквы (уніяцкая заставалася забароненай). Значная частка гараджан, асабліва з гарадоў, што аказвалі супраціўленне, высялялася ў Расію. Мясц. правасл. святароў імкнуліся замяніць маскоўскімі. Найбольш пацярпелі бел. сяляне, якіх абцяжарвалі новымі падаткамі, рабавалі і забівалі. Памешчыкі, якія складалі рас. конніцу, гвалтам забіралі сялян у свае маёнткі ў такіх маштабах, што цар вымушаны быў забараніць вываз сялян, каб захаваць падатковае насельніцтва на месцы. Аднак палітыка царызму была непаслядоўная: некалькі дзесяткаў тысяч чалавек, у асн. рамеснікі, былі пераселены з усх. гарадоў Беларусі ў Маскву (Мяшчанская слабада) і Замаскварэцкі край.

У 1656—58 ва ўсх. Беларусі разгарэўся канфлікт паміж казацкімі войскамі І.Нячая і рас. ваяводамі. Казацкая старшына намагалася далучыць Бел. Падняпроўе да гетманскай Украіны. Казакі займалі мястэчкі і вёскі каля Магілёва, Копысі, Мсціслава, рас. войскі аказвалі ім супраціўленне. Хмяльніцкі дамовіўся з царскім урадам аб устрыманні ад ваен. дзеянняў, аднак пасля яго смерці (жн. 1657) канфлікт узмацніўся. Выконваючы ўмовы *Гадзяцкага дагавора 1658* Нячай распачаў ваен. дзеянні ва ўсх. Беларусі супраць рас. войск. Войскі Рэчы Паспалітай блакіравалі Вільню. Становішча рас. войск увосень і ўзімку 1658—59 значна пагоршылася. Стары Быхаў, Мсціслаў, Крычаў, Чавусы скінулі рас. ўладу. Разам з казацкімі атрадамі Нячая супраць рас. войск дзейнічалі казацка-сял. атрады Дз.*Мурашкі*, Сапрыкі, К.Draня. Супраць казацкіх войск быў кінуты ў 1659 вял. карны атрад І.І.Лабанава-Растоўскага, якому ўдалося задушыць вызв. рух і зноў узяць Мсціслаў, Рослаў, Крычаў, Стары Быхаў. Паступова войска ВКЛ пачало выцясняць рас. армію. Каб змяніць сітуацыю, цар накіраваў на Беларусь войска на чале з ваяводам кн. І.А.Хаванскім. У выніку наступлення яго арміі ў снеж. 1659—лют. 1660 устаноўлены кантроль над Навагародскім ваяв. (за выключэннем Случчыны), зноў занята Гародня, адбітая Сапегам у сакавіку. Армія Хаванскага нанесла паражэнне палку М.Абуховіча каля Мальчы і ў студз. 1660 заняла Берасце, у сакавіку аблажыла моцны замак Ляхавічы. У гэты час на тэр. Беларусі дзейнічалі партыз. атрады Мурашкі і С.Аскіркі, якія складаліся са шляхты і рэштак бел. казакоў (з сялянства). Ім удалося заняць Давыд-Гарадок, але, пацярпеўшы паражэнне ў лют. 1660 каля Глуска, яны адышлі да Слуцка, а потым зайшлі ў тыл войску Хаванскага і сталі каля Нясвіжа.

3.5.1660 Рэч Паспалітая заключыла мір са Швецыяй (гл. *Аліўскі мір 1660*) і змагла ўсе свае войскі кінуць супраць рас. арміі. На Беларусь з Падляшша прыйшла дывізія Сапегі (6 тыс. чал.) і вызваліла Жыровічы, з Падолля — дывізія С.Чарнецкага (4 тыс. чал), якая заняла Слонім. Абедзве дывізіі злучыліся і 28.6.1660 сустрэліся з арміяй Хаванскага каля Палонкі (20 км ад Баранавічаў), дзе адбылася вырашальная бітва (гл. *Палонкаўская бітва 1660*). Войска Хаванскага



было разбіта, і ён пачаў адыходзіць на Пн. Наўздагон была кінута конніца С.Кміціча, якая нанесла паражэнні рэшткам рас. войска пад Мірам, Жукавым Барком і Койданавам. У ліп. 1660 Сапега і Чарнецкі ўвайшлі ў Менск. Тэр. Беларусі да Бярэзіны была вызвалена, а Хаванскі, прайграўшы бітву пад Чарэяй, адступіў у Полацк. Цар паслаў на Беларусь новую армію ваяводы Ю.Далгарукага (да 30 тыс. чал.) і казацкае войскі з Украіны (зноў саюзнай з Расіяй) на чале з палк. В.Залатарэнкам (25 тыс. чал.). Аднак у Бел. Падняпроўі ўжо дзейнічалі харугвы Сапегі, Чарнецкага, Кміціча і А.Палубінскага. 8.10.1660 каля Чавусаў адбыўся бой войска Рэчы Паспалітай з групоўкай Далгарукага, што перашкодзіла аб'яднанню яго войска з арміяй Хаванскага (гл. *Бітва на Басі 1660*). Шляхта, мяшчане і сяляне, якія раней прысягалі цару, пачалі масава выступаць супраць рас. войск. Пераможныя паўстанні супраць рас. гарнізонаў адбыліся ў Дзісне, Себежы, у лют. 1661 — у Магілёве. 4.11.1661 войска Хаванскага (20 тыс. чал.) пацярпела паражэнне пры Кушліках (каля Полацка) ад войска К.Жаромскага (12 тыс. чал., гл. *Кушліцкая бітва 1660*). 2.12.1661 капітуляваў рас. гарнізон у Віленскім замку. Аднак вайна не была скончана. Амаль усё войска ВКЛ і частка польскага войска, не атрымаўшы жалавання, утварылі ў 1661 канфедэрацыю і спынілі актыўныя ваен. дзеянні, якія аднавіліся толькі праз 2 гады, калі жалаванне было выплачана. 9.7.1662 здаўся рас. гарнізон у Барысаве, у снеж. 1662 — ва Усвятах. 1.6.1664 пачаліся мірныя перагаворы; пасля перапынку яны аднавіліся ў крас. 1666. Вайна завяршылася падпісаннем *Андросаўскага перамір'я 1667*, паводле якога Расія замацавала за сабой Смаленшчыну і Левабярэжную Украіну з Кіевам. Вынікі вайны для Беларусі былі трагічныя. Страты насельніцтва склалі больш за 50% (паменшылася з 2,9 млн. чал. да 1,4 млн. чал.). Найб. скарацілася колькасць насельніцтва ва ўсх. і цэнтр. Беларусі: у Полацкім, Віцебскім, Мсціслаўскім і Менскім ваяв. на 60—70%, у Навагародскім, Берасцейскім і Віленскім ваяв. на 35—45 %. Эканоміка Беларусі апынулася ў стане глыбокага заняпаду.

*Літ.*: Kubala L. Wojna moskiewska 1654/55. Warszawa, 1910; Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Białorusi w II połowie XVII wieku. Poznań, 1965; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. Мн., 1972; Мальцев А.Н. Россия и Белоруссия в середине XVII в. М., 1974; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978; Заборовский Л.В. Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655—1656 гг.): Документы, исследование. М., 1994; Мялешка В. Грамадзянская вайна на Беларусі (1655—1658 гг.) // Profesor Henryk Łowmiański: Życie i dzieło. Poznań, 1995; Сагановіч Г. Невядомая вайна, 1654—1667. Мн., 1995; Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г. М.; Варшава, 1999; Кроль П. Беларуская кампанія 1654 г.: (Да бітвы пад Шапялевічамі) // Бел. гіст. агляд. 1999. Сш. 1—2.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1792.** Абвешчана 18 мая ад імя рас. імператрыцы Кацярыны II *Чатырохгадоваму сойму 1788—92* за скасаванне рас. пратэктарата, прыняцце *Канстытуцыі 3 мая 1791* і інш. новаўвядзенні. У Рэчы Паспалітай незадаволеныя рэформамі абвясцілі пра ўтварэнне Генеральнай канфедэрацыі Кароны (*Таргавіцкай канфедэрацыі*), якая выступіла за рэстаўрацыю дасоймавага дзярж. ладу. Канфедэрацыя пашыралася на Украіне пад аховай інтэрвенцкага корпуса ген.-аншэфа М.В.Кахоўскага ў складзе 4 дывізій (64 тыс. чал., 136 гармат). Сойм перад самароспускам (30 мая) прызначыў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага вярхоўным камандуючым, абвясціў пра скліканне паспалітага рушэння, падвоіў падаткі. Вайсковая камісія абодвух народаў занялася тэрміновым даўкамплектаваннем запланаванага 100-тысячнага войска. 18 мая корпус Кахоўскага пераправіўся цераз Днестр і з 3 напрамкаў пачаў наступленне на каронныя войскі на чале з пляменнікам караля ген.-лейтэнантам кн. Ю.А.*Панятоўскім*. Да 30 ліп. польская армія была выцеснена за р. Вісла пад Казенцы. У час гэтай кампаніі адбылося 11 маршавых баёў і 2 пазіцыйныя (найбольшыя — 18 чэрв. пад Зелянцамі і 18 ліп. пад Дубенкай), у якіх польскія войскі страцілі 2500 чал. забітымі і больш за 500 чал. палоннымі, расійскія — адпаведна каля 1500 і 3. Другая рас. армія на чале з ген.-аншэфам М.М.*Крачэтнікавым* мела загад акупіраваць ВКЛ, садзейнічаць стварэнню тут канфедэрацыі і заняць г. Берасце як месца мяркуемага злучэння канфедэрацый Кароны і ВКЛ і сойма. Армія Крачэтнікава пачала паход 22 мая аднachасова 4 калонамі (35 014 чал., у т.л. 26 185 чал. пяхоты і 8829 чал. кавалерыі, 58 гармат). 1-ю калону (9559 чал.) з-пад Дынабурга праз Браслаў на Вільню і Коўна вёў ген.-паручнік кн. П.П.Далгарукаў. 2-я калона (9221 чал.) на чале з ген.-паручнікам Ш.М.Касакоўскім рухалася ад Полацка праз Паставы і Ліду на Гродна. 3-я калона (7152 чал.) пад камандаваннем ген.-паручніка графа Б.П.Меліна накіравалася ад Талачына праз Барысаў на Менск. 4-ю калону (9082 чал.) ген.-паручнік барон І.Я.Ферзен вёў ад Рагачова праз Бабруйск і Слонім у напрамку Любяшова. Ім супрацьстаяла войска ВКЛ (13 650 чал., у т.л. 7421 чал. пяхоты і 6229 чал. кавалерыі, 60 гармат) на чале з галоўнакамандуючым ген.-лейтэнантам кн. Людвікам Віртэмбергскім, якому кароль 20 мая загадаў згуртаваць армію ў Віленскую і Ковенскую дывізіі. Аднак Вайсковая камісія больш за палову войска (8965 чал.) адвяла пад гал. Менскую дывізію, што дазволіла яе камандзіру, ген.-лейтэнанту Ю.Юдзіцкаму прэтэндаваць на ролю галоўнакамандуючага. У выніку Віртэмбергскі бяздзейна сядзеў у мяст. Воўчыне і 1 чэрв. зняты з пасады па падазрэнні ў патуранні ворагу. За час гэтай хаатычнай рэарганізацыі войска Крачэтнікаў заняў палову тэр. ВКЛ, без бою ўзяў Слуцк (11 чэрв.), Нясвіж, Менск (15 чэрв.), Вільню (12 чэрв.), дзе 25 чэрв. абвешчана Генеральная канфедэрацыя ВКЛ. Новы галоўнакамандуючы Юдзіцкі ў баі пад Мірам (10—11 чэрв.) страціў 100 чал. забітымі, а гал. сілы 2 калонамі адвёў у Гародню на злучэнне з каронnымі войскамі. 20 чэрв. на пасадзе галоўнакамандуючага яго замяніў ген.-лейтэнант М.Забела, які атрымаў загад накіраваць гал. сілы на непрыяцеля. У выніку рас. авангард 7 ліп. без бою заняў Гародню, а дэмаралізаванае мітуслівымі пераходамі, бязладдзем і голадам войска ВКЛ пацярпела паражэнні пад Зэльвай (4 ліп.), Мсцібавам (6 і 10 ліп.) і Берасцем (23 ліп.). Ва ўсіх дробных і буйных баях у ВКЛ рас. бок страціў каля 600 чал. забітымі, а войскі ВКЛ — больш за 900 забітымі і больш за 500 палоннымі. Ацалелая 13-тысячная армія ВКЛ была выцеснена за Варшаву і стала штаб-кватэрамі ў Праснышу і Плоцку. Кароль ужо вёў сакрэтныя перагаворы з Кацярынай II аб перадачы трона Рэчы Паспалітай яе ўнуку

Канстанціну ўзамен за захаванне Канстытуцыі 3 мая. Аднак Кацярына II патрабавала безагаворачнай капітуляцыі. 24 ліп. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падтрымаў Таргавіцкую канфедэрацыю і загадаў спыніць узброенае супрацьстаянне рас. войскам. Каля 200 афіцэраў, абураных здрадай і ганьбай, падалі ў адстаўку. Абшары Рэчы Паспалітай акупіравала рас. армія (98 736 чал., у т.л. 36 834 чал. ў ВКЛ). Перамога ў вайне дазволіла Расіі разам з Аўстрыяй ажыццявіць *другі падзел Рэчы Паспалітай* (1793).

*Літ.*: Дневные записки о движении и действиях войск русских в Великом княжестве Литовском и Польше в 1792 г., находившихся под начальством генерал-аншефа М.Н.Кречетникова // Чтения в Обществе истории и древностей Российских. 1863. Кн. 4; Łoek J. Catherine II's armed intervention in Poland: origins of the political desisions at the Russion court in 1781 and 1792 // Canadian slavic studies. 1970. № 3; Wolanski A. Wojna polsko-rosyjska 1792 r. 3 wyd. Warszawa, 1996.

***Яўген Анішчанка.***




Да арт. **Вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609–18**. Аблога Смаленска войскамі Рэчы Паспалітай у 1610. Гравюра Г.Келера.

**вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18**, вайна за вяртанне ВКЛ Смаленскай зямлі і за ўтварэнне федэрацыі Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай. Выклікана супярэчнасцямі па тэрытарыяльных пытаннях паміж дзвюма дзяржавамі, няўстойлівым становішчам у Маскоўскай дзяржаве («смутай»), падтрымкай каралём і вял. князем Жыгімонтам III Вазай, часткай польскага і бел.-літ. войска, укр. і данскімі казакамі Лжэдзмітрыя II. У гэтых умовах цар Васіль Шуйскі хацеў заключыць дагавор з Жыгімонтам, але баярская апазіцыя ў Маскве, жадаючы пазбавіцца ад Шуйскага, патаемна прапанавала царскую карону сыну караля Уладзіславу. Жыгімонт пачаў падрыхтоўку да вайны. Узнік план далучыць Маскоўскую дзяржаву да Рэчы Паспалітай у якасці члена федэрацыі. Зачэпкай да пачатку вайны было ўвядзенне шведскага корпуса на чале з Я.Дэлагардзі на тэр. Расіі для барацьбы з атрадамі прыхільнікаў Ілжэдзмітрыя II, які стаяў у с. Тушына каля Масквы. Паколькі Жыгімонт быў у стане вайны са Швецыяй (гл. *Вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*), то ўвядзенне каралеўскіх шведскіх войск у Расію і яе саюз са Швецыяй разглядаліся як варожы акт. Жыгімонт узначаліў войска, у якое ўвайшлі і 12 пяхотных выбранецкіх рот ВКЛ, далучыліся польскія, бел.-літ. і укр. атрады з-пад Тушына. У вер. 1609 пачалася аблога Смаленска. Першымі да горада падышлі атрады Л.Сапегі, потым кароннага гетмана польнага С.Жалкеўскага, але толькі 13.6.1611 горад быў узяты. У выніку распаду лагера Лжэдзмітрыя II, які ўцёк ў Калугу, тушынскія баяры і дваране не пайшлі на замірэнне з Шуйскім, а накіравалі пасольства пад Смаленск да Жыгімонта. 14.2.1610 баяры на чале з тушынскім патрыярхам Філарэтам (дагэтуль мітрапаліт растоўскі, з баярскага роду Раманавых) падпісалі дагавор аб заняцці маскоўскага трона 15-гадовым сынам караля Уладзіславам, які павінен быў кіраваць Рас. дзяржавай разам з Баярскай думай. 4.7.1610 войска Жалкеўскага, якое налічвала 6325 чал. конніцы, 200 пяхоты, мела 4 невялікія гарматы, пад Клушынам (каля Гжацка) разбіла рас. войска (35 тыс. чал.) на чале з братам цара кн. Дз.Шуйскім і падышло да Масквы. Там у выніку перавароту цар Васіль Шуйскі быў скінуты з трона, баярская рада («сямібаяршчына») як часовы ўрад заключыла ў жн. 1610 дагавор з Жыгімонтам і запрасіла на трон Уладзіслава, афіцыйна абвешчанага царом Расіі. У вер. 1610 польскае і бел.-літ. войска заняло Маскву. Гэта рэзка змяніла сітуацыю ў Расіі. Жыгімонт не адпусціў сына ў Маскву. Ён больш схіляўся да дзярж. уніі Рэчы Паспалітай і Расіі. Дзеля гэтага ў Варшаву былі высланы ўсе магчымыя прэтэндэнты на маскоўскі трон, уключна з В.Шуйскім і Філарэтам. У сак. 1611 1-е апалчэнне з рас. дваран, стральцоў, служылых казакоў, з атрадаў прыхільнікаў ужо да таго часу забітага Лжэдзмітрыя II кн. Дз.Трубяцкога і атамана І.Заруцкага на чале з разанскім ваяводам П.Ляпуновым спрабавала заняць Маскву, але пасля няўдачы перайшло да аблогі. Пасля забойства ў ліп. 1611 Ляпунова казакамі большасць дваран-апалчэнцаў разышлася. У пач. жн. 1612 да Масквы падышло 2-е апалчэнне, сфарміраванае ў Ніжнім Ноўгарадзе земскім старастам К.Мініным і вайсковым кіраўніком ваяводам кн. Дз.Пажарскім, да яго далучыліся казакі кн. Трубяцкога. 1.9.1612 да Масквы з 3-тысячным войскам і абозам падышоў вял. гетман ВКЛ Я.К.Хадкевіч, 3.9.1612 ён быў адбіты значна большымі рас. сіламі. Запозненая спроба падтрымаць гарнізон польскіх і бел.-літ. войск у Маскве, а потым пасадзіць на трон Уладзіслава не ўдалася. У пач. снежня 1612



пасля штурму Кітай-горада капітуляваў гарнізон Крамля. У лют. 1613 Земскі сабор абраў царом 16-гадовага Міхаіла Фёдаравіча Раманава, сына Філарэта. Мінін і Пажарскі былі адхілены ад кіравання. На чале ўрада сталі баяры і дваране, якія раней супрацоўнічалі з польскімі і бел.-літ. інтэрвентамі. У наступныя гады Жыгімонт дапамагаў каралевічу Уладзіславу як «маскоўскаму цару» заваёўваць землі на У, але недахоп грошай не дазволіў сабраць вялікае войска. У 1613 маскоўскае войска падышло да Смаленска, але ў крас. 1614 бел.-літ. войска А.Лісоўскага вызваліла горад ад аблогі. У 1615 бел.-літ. войскі Я.Кішкі і Лісоўскага зрабілі рэйды адпаведна на Старадуб і Бранск. У 1617—18 каралевіч Уладзіслаў Жыгімонтавіч сам узначаліў паход на Маскву, каб вярнуць трон. Праз Беларусь пайшло яго войска на чале з гетманам Хадкевічам, далучыліся ўкр. казакі на чале з гетманам П.Сагайдачным, данскія казакі і рэшткі казацка-сялянскіх атрадаў часоў паўстання І.Балотнікава. Іх пазіцыя падмацоўвалася шматлікімі дарчымі граматамі Уладзіслава розным групам насельніцтва (у т.л. і сялянам). Напалоханы ўрад Міхаіла Фёдаравіча пачаў рыхтаваць войскі. Маскоўскія ваяводы здалі Дарагабуж, Вязьму. У кастр. 1618 Уладзіслаў з З, Сагайдачны з Пд падышлі да Масквы і размясціліся каля Арбацкай брамы, але штурм вынікаў не даў, не былі ўзяты таксама Мажайск і Троіца-Сергіеў манастыр. Вычарпаныя баявыя рэсурсы і значныя страты ў людзях прымусілі абодва бакі пайсці на перагаворы. 11.12.1618 у с. Дэуліна заключана *Дэулінскае перамір'е 1618* на 14,5 года. Да ВКЛ адыходзілі смаленскія (за выключэннем Вязьмы), да Польшчы — ноўгарад-северскія і чарнігаўскія землі. Каралевіч Уладзіслаў захаваў тытул «цара маскоўскага і ўсяе Расіі», але на троне застаўся Міхаіл Фёдаравіч. Пытанне аб канчатковым міры было адкладзена.

*Літ.*: Пирлинг П. Из смутного времени: Ст. и заметки. СПб., 1902; Korzon T. Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. T. 2. 2 wyd. Lwów etc., 1923; Tyszkowski K. Wojna o Smoleńsk, 1613—1615. Lwów, 1932; Платонов С.Ф. Очерки по истории смуты в Московском государстве XVI—XVII вв. М., 1937; Смоленская оборона 1609—1611 гг. Смоленск, 1939; Шепелев И.С. Освободительная и классовая борьба в Русском государстве в 1608—1610 гг. Пятигорск, 1957; Zarys dziejów wojskowości polskiej do roku 1864. T. 1. Warszawa, 1965; Maciszewski J. Polska a Moskwa, 1603—1618. Warszawa, 1968; Polak W. O Kreml i Smoleńszczyznę: Polityka Rzeczypospolitej wobec Moskwy w latach 1607—1612. Toruń, 1995; Бохун Т. Битва под Москвой 1—3 сентября 1612 года // Куликово поле и ратные поля Европы. Тула, 2002.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29**, доўгачасовая вайна за панаванне на Балтыйскім моры. Кароль польскі і вял. князь літоўскі *Жыгімонт III* Ваза [сын шведскага прынца, пазней караля Яна (Юхана) III і дачкі польскага караля Жыгімонта I Старога Катажыны] у 1592 стаў каралём Швецыі. Лютэранская апазіцыя ў Швецыі на сойме ў 1599 дэтранізавала яго, а Жыгімонт III у 1600 уключыў Эстляндыю (Паўн. Эстонію) у склад Рэчы Паспалітай, што стала зачэпкай да вайны. З 1602 пачаліся актыўныя ваен. дзеянні. У вайне асабліва вызначылася бел.-літ. войска на чале з гетманам польным ВКЛ Я.К.Хадкевічам, які ў час кампаніі атрымаў пасаду вял. гетмана ВКЛ. Новы шведскі кароль (з 1604) Карл IX (дзядзька Жыгімонта III) з 14-тысячным войскам асадзіў Рыгу. Хадкевіч з 4-тысячным войскам каля в. Кірхгольм (непадалёку ад Рыгі) 27.9.1605 разграміў у 3 разы большыя сілы ворага, які страціў 9 тыс. воінаў (гл. *Кірхгольмская бітва 1605*). У 1606 пуцкі староста Я.Вэйгер атрымаў перамогу ў марской бітве каля паўвострава Хэль. Ваенныя дзеянні працягваліся яшчэ 2 гады, у выніку шведы занялі частку Інфлянтаў (Ліфляндыі). У 1609 войскі Хадкевіча ўзялі г. Парнаў (Пярну) і атрымалі новую перамогу каля Рыгі. Але паколькі ім не плацілі грошай (іх не было ў скарбе), войскі разышліся. У 1611 каралём Швецыі стаў Густаў II Адольф. Ваенныя дзеянні ў Прыбалтыцы прыпыніліся з-за ўдзелу Рэчы Паспалітай і Швецыі ў інтэрвенцыі ў Расію ў 1609 (гл. *Вайна Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*). На 8 гадоў было падпісана перамір'е. У 1617 шведы аднавілі ваен. дзеянні і занялі г. Парнаў. У 1618 заключана новае перамір'е да 1620. Рэч Паспалітая ў гэты час была занята вайною з Турцыяй і Крымскім ханствам. Гэта выкарыстаў Густаў II Адольф і ў 1621 заняў большую частку Інфлянтаў разам з Рыгай (25.9.1621), пазней заняў і Мітаву (Елгаву) — сталіцу васальнага ў адносінах да Рэчы Паспалітай Курляндскага герцагства. У 1622 гетман польны ВКЛ К.Радзівіл пасля аблогі вярнуў Мітаву, але ў складзе Рэчы Паспалітай засталіся толькі Курляндыя і паўд.-ўсх. Інфлянты. 11.8.1622 у Мітаве падпісана пагадненне пра перамір'е, паводле якога мытныя даходы ад гандлю ВКЛ з балтыйскімі краінамі і Еўропай дасталіся Швецыі. У 1625 пачаўся апошні перыяд вайны, калі Густаў II Адольф пачаў наступленне на рэшту Інфлянтаў і Жамойць. Шведы занялі Какенгаўзен, аблажылі г. Дорпат (Тарту), захапілі радзівілаўскае ўладанне г. Біржы ў Жамойці. Бел.-літ. войску ўдалося адстаяць г. Дынабург (Даўгаўпілс). Ваенныя дзеянні былі перанесены ў Прусію і далей у Германію. У гэты перыяд войскі Рэчы Паспалітай атрымалі перамогі на моры каля Алівы (1627) і на сушы каля Тшцяны (1629). Але шведы занялі ўсю Прусію. 26.9.1629 у г. Альтмарк (Новы Тарг) падпісаны дагавор аб перамір'і, паводле якога ўсе парты, акрамя Караляўца (Кёнігсберга), Гданьска і Пуцка, і ўся Ліфляндыя да Зах. Дзвіны пераходзілі да Швецыі (гл. *Альтмаркскае перамір'е 1629*). У выніку вайны Швецыя замацавалася ў Прыбалтыцы, кантралявала балтыйскі гандаль Рэчы Паспалітай, мела гарантаваны тыл для вядзення вайны ў Германіі, падтрымліваючы там пратэстанцкіх князёў, якія выступалі супраць імператара і каталіцкіх князёў, намецілася шведска-прускі саюз супраць Рэчы Паспалітай. Наступнае перамір'е на 26,5 года было падпісана ў 1635, калі шведскае войска выйшла з тэр. Прусіі, васальнай у адносінах да Польшчы, і адмовілася ад мыта з гандлю Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Herbst S. Wojna inflancka (1600—1602). Warszawa, 1938; Яго ж. Woina inflancka 1603—1604 // Studia historica. Warszawa, 1958; Konopczyński W. Dzieje Polski nowożytnej. London, 1958. T. 1. S. 203—204, 264—277; Wisner H. Kampania inflancka Krzysztofa Radziwiłła 1617—1618 // Zapiski historyczne. 1970. Z. 1; Яго ж. Wojna inflancka 1625—1629// Studia i materiały do historii wojskowości. 1970. T. 16, cz. 1; Яго ж. Wojna polsko-szwedzka w Inflantach 1621—1622 // Zapiski historyczne. 1991. Z. 3; Dzieje Polski. Warszawa, 1976. S. 274—275, 277, 322—323.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Вайсковая камісія абодвух народаў**, цэнтральны калегіяльны орган дзярж. улады Рэчы Паспалітай па кіраванні вайсковымі справамі. Створана 21.12.1788 *Чатырохгадовым соймам 1788—92* для



камплектавання, узбраення і матэрыяльнага забеспячэння запланаванага 100-тысячнага войска. Складалася з 3 гетманаў і 14 камісараў (2 сенатары, 6 ваенных і 6 цывільных асоб), якія выбіраліся на мясц. сойміках (7 чал.) і сойме (7 чал.) на 2 гады з правам перавыбару. У камісію забаранялася выбіраць соймавых паслоў, асоб да 23 гадоў, тых, хто не набыў землеўладання хаця б за год да выбараў або не займаў раней грамадскай пасады (да яе прыраўноўваліся 6 гадоў афіцэрскай службы). Падпарадкоўвалася сойму. У першапачатковым складзе (ад ВКЛ Ю.Несялоўскі, М.Радзівіл, Ю.Швяйкоўскі, Ю.Забела, Т.Статкевіч, К.Л.Яленскі) прысягнула Канстытуцыі 3 мая 1791. Пазней у камісію ўвайшлі Я.Ціхоцкі (старшыня), Ю.Панятоўскі, Ю.Віртэмбергскі, Т.Касцюшка, М. і Ш. Забелы, М.К.Агінскі, Л.Тышкевіч, М.Грахольскі. Мела штаб: 2 ген.-ад'ютанты, 2 ген.-аўдытары, 2 пляц-маёры, адвакат, картограф і інш., а таксама канцылярыю (2 пісары, у т.л. Я.Ясінскі, 4 сакратары, 12 канцылярыстаў і 12 капіістаў), падзеленую на аддзелы паводле галіновых прынцыпаў кіравання арміяй (арганізацыя і дыслакацыя, фінансава-маёмаснае забеспячэнне, рэгуляванне ўнутр. службы і ўзаемаадносіны з цывільным насельніцтвам). Сесіі камісіі адбываліся 4 разы на тыдзень. Судзіла справы вайскоўцаў па службе і спрэчкі ваенных з цывільнымі. Мела абавязак аказваць хуткую ваен. дапамогу шляхце і дзярж.ураднікам у выкананні судовых прыгавораў пасылкай каманды з 3 жаўнераў. Для ўзбраення і абмундзіравання войска 8.3.1790 створаны камісарыят (6 чал.), які адначасова займаўся арганізацыяй правіянцкіх магазінаў, лазарэтаў, пякарняў. Недахоп сродкаў прымусіў камісію абмежаваць колькасць войска і перайсці да рэкрутскага набору (3.3.1790). Скасавана 20.8.1792 *Таргавіцкай канфедэрацыяй*. *Гарадзенскі сойм 1793* вярнуў уладу над войскам гетманам разам з асобнымі вайсковымі камісіямі для Кароны і ВКЛ (гл. *Вайсковая камісія Вялікага княства Літоўскага*).

***Яўген Анішчанка.***

**Вайсковая камісія Вялікага княства Літоўскага**, цэнтральны калегіяльны орган улады ВКЛ па кіраванні вайсковымі справамі. Створана на ўзор падобнай камісіі Кароны Польскай на каранацыйным сойме 1764 для абмежавання распарадчай улады ў войску вял. і польнага гетманаў (аднак яны захавалі права старшынства на пасяджэннях). Члены камісіі выбіраліся на 2 гады і былі падсправаздачныя сойму. Пачала дзейнасць у Гародні 10.3.1765 у складзе 2 сенатараў (віленскі ваявода М.К.Агінскі, берасцейскі кашталян Я.Гарайн) і 7 канцылярыстаў (саветнікаў) ад шляхты (Ю.Сасноўскі, А.Забела, С.Адахоўскі, Т.Нарбут, М.Пац, Ф.Бітаўт, М.Гарайн). Мела пісара, рэгента, адваката, 2 возных, невял. штаб. Функцыі камісіі выразна не акрэсліваліся. Забяспечвала фінансаванне арміі, сродкі на гэта браліся ў асн. з пагалоўнага абкладання яўрэяў і падаткаў на вінакурства. Камісія з невял. кадравымі зменамі праіснавала да 6.11.1776. Яе функцыі былі перададзены вайсковаму дэпартаменту *Пастаяннай Рады*. У 1788—92 ваен. справамі займалася *Вайсковая камісія абодвух народаў*. *Гарадзенскі сойм 1793* стварыў камісію «рэвізіі і ліквідацыі літоўскага войска» з 12 чал. (старшыня — навагародскі ваявода Ю.Несялоўскі), а пастановай 23.11.1793 стварыў новую вайсковую камісію ВКЛ (С.Тышкевіч, Ф.Ельскі, Я.Гарайн, А.Храптовіч, Е.Белапятровіч, С.Мануцы). Практычна войскам распараджалася канцылярыя *Таргавіцкай канфедэрацыі* на чале з польным гетманам ВКЛ Ш.Касакоўскім. З пачаткам паўстання 1794 камісія самараспусцілася, а яе функцыі выконвалі *камісіі парадкавыя цывільна-вайсковыя* і спец. аддзелы паўстанцкіх органаў улады.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 7—8. 2 wyd. Petersburg, 1860; T. 10. Poznań, 1952; Гейсман П.А. Проект реорганизации польской армии 1789 г. СПб., 1894; Żytkowicz L. Ze stosunków Jasińskiego z Konfederacją Targowicką // Ateneum Wileńskie. 1938. Z. 1. Ratajczyk L. Wojsko i obronność Rzeczypospolitej 1788—1792. Warszawa, 1975.

***Яўген Анішчанка.***

**Вайшнаровіч** Казімір Ян (?, Ашмянскі пав.—14.5.1677), юрыст, дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. Д-р філасофіі (1642), д-р тэалогіі і абодвух праваў. З шляхецкага роду герба «Марскі кот». Вучыўся ў Віленскай акадэміі (каля 1640—42), пасля, відаць, у Рыме. Каля 1661 зноў наведаў Італію (Перуджу). Да 1644 прыняў духоўны сан, быў канцлерам віленскім, схаластыкам пільтэнскім, пробашчам эйсмантаўскім, з 1676 чл. віленскай капітулы. Адначасова каралеўскі сакратар, у 1676 рэгент вял. канцылярыі ВКЛ. У 1662 фундаваў кафедру палітыкі ў Віленскай акадэміі (адчынена ў 1677) і падараваў ёй сваю бібліятэку. Быў вядомы як аратар, прапаведнік. Аўтар шматлікіх друкаваных пропаведзяў і панегірыкаў на польскай і лац. мовах. У 1644—48 выдаў збор акалічнасных прамоў «Палітычны прамоўца», які меў характар падручніка рыторыкі.

*Тв.*: Orator polityczny na trzy części, pogrzebową, weselną i różnym aktom służącą. Wilno, 1644; Kazanie na reformę obyczajów dworskich. Kraków, 1647; Dom mądrości kolumnami wsparty. Antwerpia, 1647; Krwawa Chrystusowa winnica, abo Kazanie o Błogosławionym Jozafacie Koncewiczu. Kraków, 1647; Novus sol in coelo Basiliano relucens. Romae, 1648 (2 ed. Cracoviae, 1648); Triumphate feretrum supergas Vladislaus IV Rex Poloniae publica oratione exponitur. Romae, 1648; Orator polityczny weselnym i pogrzebowym służący aktom. Kraków, 1648 (2 wyd. 1677); Rycerz Ignacego Loyoli Stanisław Kostka kazaniem wystawiony. Wilno, 1655; Arsenał miłosierdzia Panny Przenajświętej Mariej. Paryż, 1668.

***Валерый Пазднякоў.***

**Вайшнорас**, Вайшнарус (Vaišnoras, Waischnarus) Сімонас (каля 1545, каля Варняў, Жамойць—16.11.1600), літоўскі рэлігійны і культурны дзеяч. Жыў у Прускім герцагстве. У 1568—71 вучыўся ў Каралявецкім (Кёнігсбергскім) ун-це. З 1576 лютэранскі пастар у Рагніце. Пісаў песнапенні. Пераклаў з лац. мовы на літоўскую лютэранскі палемічны трактат Адама Францысці «Тэалагічная жамчужына» («Zemczuga Theologischka», Каралявец, 1600). У перакладзе шмат неалагізмаў для абазначэння абстрактнай лексікі. У прадмове да кнігі першы напісаў пра крытыкаў літ. кніг.

*Літ.*: Simono Vaišnoro 1600 metų Žemczuga Theologischka ir jos šaltiniai / Parengė G.Michelini. Vilnius, 1997.

**ваколіца**, гл. *Аколіца*.

**ваколічная шляхта**, адна з ніжэйшых груп дробнамаянтковай *шляхты* ў Літве і Беларусі ў 16—19 ст. Называлася таксама шляхтай засцянковай, заградовай, загонавай, шарачковай і інш. Юрыдычна адносілася да пануючага саслоўя феадалаў, маёмасна набліжалася да працоўнага сялянства. Паходзіла са свабодных людзей (*баяр, зямян* і інш.), якія маглі дакументальна пацвердзіць асабістую вольнасць ад цяглава-чыншавых абавязкаў. Сялілася ў адасобленых паселішчах (*аколіцы, засценкі*, адрубы) на землях,



не занятых гаспадарскімі дварамі і надзеламі залежных сялян. Зямлёй валодала паводле родава-спадчыннага права, апрацоўвала яе самастойна, але ў дапамогу нярэдка наймала *агароднікаў*, халупнікаў і інш. сялян. У канцы 18 ст. каля 5% В.ш. мелі прыгонных. Удзельнічала ў сойміках, паспалітым рушэнні, карысталася юрыд. недатыкальнасцю, прымала ўдзел у надзвычайных агульназемскіх ваен. і рамонтна-будаўнічых мерапрыемствах. Вылучалася пачуццём уласнай годнасці, незалежнасці, саслоўна-карпаратыўнай выключнасці і салідарнасці. У 1796 у 8 паветах былога ВКЛ складала 61% усёй шляхты, у 1839 у зах. губернях Рас. імперыі — 56%. У 1810 сярэдняя гаспадарка ваколічнага шляхціца Магілёўскай губ. складалася з 7 душ, мела 7,7 дзес. зямлі, 1,8 селяніна. Пасля ўключэння ВКЛ у склад Расійскай імперыі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай пасля ўвядзення падушных рэвізій, рэкрутства, маёмаснага цэнзу пры выбарах і інш. ў канцы 18—пач. 19 ст. В.ш. страціла свае саслоўна-паліт. правы.

*Літ.*: Malinowski M. O ziemianach podług dawnych praw litewskich // Teka Wileńska. 1857. № 1; Gloger Z. Szlachta okoliczna na Zmujdzi // Biblioteka Warszawska. 1877. T. 4, z. 11; Я г о ж. Dawna ziemia bielska i jej szastkowa szlachta. Warszawa, 1873; Леонтович Ф.И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1—3. СПб.; Варшава, 1897—98; Грушевский А. Пинское Полесье XIV—XVI вв.: Ист. очерки. Киев, 1903; Horoszkiewicz R. Szlachta zaściankowa na ziemiach wschodnich. 2 wyd. Pińsk, 1937; Козловский П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII—первой половине XIX в. Мн., 1982; Rychlikowa I. Ziemiaństwo polskie, 1789—1864. Warszawa, 1983.

*Яўген Анішчанка.*

**Валадкевіч** (Валадковіч) Хрызастом (1599?—каля 1642), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, гісторык. У 1613 і 1629 выбіраўся пaслом на соймы ад Жамойці. Напэўна, у 1621 удзельнічаў у баявых дзеяннях у Інфлянтах у час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. Каралеўскі дваранін, інстыгатар ВКЛ у 1626—33, адначасова каралеўскі сакратар, жамойцкі войскі ў 1627—31, суддзя каптуровы ў 1632, падсудак земскі ў 1632—42. Паводле некат. звестак, напісаў кнігу пра гісторыю Інфлянцкага ордэна. У 1610 у Вільні выдаў на лац. мове кн. «Дзесяцігадовая Інфлянцкая вайна». З лац. мовы на польскую пераклаў «Жыціе св. Казіміра» (выйшла каля 1627—31).

*Літ.*: Błaszczyk G. Chryzostom Wołodkiewicz — zapomniany pisarz i jego testament // Lituano-Slavica Poznaniensia. Poznań, 1989. T. 3; Antanavičius D. Lietuvio bajoro «Dešimtmetis Livonijos karas»: bibliografinės mįslės ir šaltiniotyrinė vertė // Lietuvos istorijos metraštis. 2000 metai. Vilnius, 2001; Я г о ж. Lietuvio bajoro «Dešimtmetis Livonijos karas»: autorystės problema // Там жа.

*Валерый Пазднякоў.*

**Валадковіч** Феліцыян Пілíп (1697—1778), уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З 1730 епіскап холмскі і бэлзскі, з 1753 каад'ютар (памочнік-намеснік) мітрапаліта кіеўскага Ф.Грабніцкага, з 1756 епіскап уладзімірскі (г. Уладзімір-Валынскі). У 1762—78 мітрапаліт кіеўскі. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі спрабаваў абвінаваціць В. ў злоўжываннях. Нягледзячы на заяву папскага прастола пра невінаватасць В. (1770), нападкі на яго з боку каралеўскай улады працягваліся да канца жыцця.

**Валадковічы** (Валадкевічы), шляхецкі род герба «Радван» зменены. Магчыма, паходзяць ад Каспара Мікалаевіча В., шляхціца з Віленскага пав., сыны якога Марцін і Рыгор у 1567 ставілі ў войска ВКЛ 2 конных воінаў з маёнтка Геранёны Ашмянскага пав. Марцін В. згадваецца і ў ліку шляхты Менскага пав. Найб. вядомыя:

Марцін (згадваецца ў 1567—82), пісар земскі, суддзя земскі і гараднічы менскі (1582). Меў сына Адама і дачку Палонію, якая была жонкаю кн. Пятра Друцкага-Горскага.

Марцін (?—?), відаць, сын Адама, унук Марціна. Суддзя земскі менскі (1628).

Крыштоф (1600—1670), пісар земскі менскі, ваявода навагародскі з 1658. У 1645 другім шлюбам ажаніўся з княжной Альжбетай з роду Друцкіх-Саколінскіх (памерла ў 1653). Яго дачка Соф'я Канстанцыя ў 1652 выйшла за маршалка ВКЛ кн. А.Палубінскага.

Марцін Казімір (?—?), гараднічы і падстароста менскі (1649). Яго нашчадкамі, напэўна, былі В., якія ў 2-й пал. 17—18 ст. займалі розныя пасады ў Менскім пав.

Магчыма, да гэтага роду адносіліся В.: Сенька, які ў канцы 15—пач. 16 ст. служыў князям Мсціслаўскім і атрымаў ад іх вёскі Касмынічы і Філіпаўшчыну; Павел, які ў 1582 з сынам Васілём служыў удаве кн. Ю.Ю.Слуцкага Кацярыне з Тэнчынскіх; Рыгор, полацкі шляхціц, згадваецца ў 1582; Дзям'ян (памёр да 1582), жонка якога была Палонія Лядская. У Жамойціі існаваў род В. герба «Лебедзь».

*Вячаслаў Насевіч.*

**Валанчус** (Валанчэўскіс, Валанчэўск; Valančius, Wolonczewskis, Wołonczewski) Мацеюс [Мацей Казімір; 16(28).2.1801, в. Насрэнай Крэцінгскага пав.—17(29).5.1875], літоўскі пісьменнік, асветнік, рэлігійны дзеяч. Скончыў Віленскую гал. духоўную семінарыю (1828). З 1840 праф. Віленскай і Пецярбургскай духоўных акадэмій, з 1845 рэктар Варніскай духоўнай семінарыі. З 1850 жамойцкі біскуп. З мэтай умацавання каталіцтва ў літ. вёсцы праводзіў асветніцкую працу на літ. мове, арганізоўваў прыходскія школы, стварыў шырокую сетку т-ваў цвярозасці. Быў лаяльны ў адносінах да царскай улады, але выступаў супраць прымусовага насаджэння ў Літве праваслаўя, русіфікацыі насельніцтва і забароны літ. друку. Аўтар гіст. даследавання «Жамойцкае біскупства» («Žemajtiu Wiskupyste», Вільня, 1848, 2 ч.), дыдактычных апавяданняў і аповесцей. Складальнік зб. «Жамойцкія прыказкі» (1867).

*Тв.*: Raštai. T. 1—2. Vilnius, 1972; Польск. пер. — Biskupstwo żmujdzkie. Kraków, 1898.

*Літ.*: Motiejus Volančius iš arti ir iš toli: Straipsnių rinkinys. Vilnius, 2001.

**валасныя граматы**, заканадаўчыя акты ў ВКЛ, якія юрыдычна замацоўвалі пэўныя мясцовыя асаблівасці прававога становішча, кіравання, землекарыстання, падатковага і павіннаснага абкладання насельніцтва гаспадарскіх земляў і валасцей. Найб. даўнімі з'яўляюцца граматы, выдадзеныя вял. князем Полацкай і Віцебскай землям прыблізна ў 1390-я г. Першапачатковыя іх тэксты не захаваліся, але аналіз прывілеяў Віцебскай зямлі 1503, 1509, 1561 і Полацкай зямлі 1511, 1580, 1634 сведчаць, што ў іх знаходзяцца фрагменты больш стараж. актаў. Захоўваючы прынцып «даўніны», граматы пацвярджалі своеасаблівы статус гэтых земель у дзяржаве, змяшчалі і некат. новыя нормы, што датычылі агульных правоў тэрыторый або забяспечвалі правы і інтарэсы пануючых слаёў і груп насельніцтва (гл. таксама *Абласныя прывілеі*). Значна больш захавалася



велікакняжацкіх грамат (выракаў, устаў, гаспадарскіх лістоў) насельніцтву гаспадарскіх валасцей, датычылі яны ў асноўным тэр. усх. Беларусі, дзе размяшчаліся шматлікія велікакняжацкія ўладанні — т.зв. *падняпроўскія і падзвінскія гаспадарскія воласці*. Ёсць агульныя граматы некальким валасцям адразу, ёсць адрасаваныя насельніцтву асобнай воласці. Найб. вядомыя В.г.: падняпроўскім валасцям 1500, задзвінскім валасцям 1511, Крычаўскай вол. 1526, Маркаўскай вол. 1530, Усвяцкай і Азярышчанскай валасцям 1535, Магілёўскай вол. 1536, Чачэрскай вол. 1547, 1554, 1560, Прапойскай вол. 1547, 1554, 1560, 1561, Бабруйскай вол. 1532, 1553, Свіслацкай вол. 1534, і інш. В.г. даваліся звычайна ў адказ на звароты ці скаргі насельніцтва да вял. князя ў сувязі са злоўжываннямі мясц. адміністрацыі, парушэннямі даўніны ў зборы даніны, павышэнні павіннаснага і падатковага абкладання. Многія нормы, змешчаныя ў В.г., зыходзілі са звычаёвага права, традыцый, якія склаліся ў пэўнай мясцовасці, але нярэдка мелі навацыі ці спасылкі на дзеючае заканадаўства. Так, у грамаце вял. князя Жыгімонта I Старога мяшчанам і сялянам Свіслацкай вол. 1534 адзначалася, што «не маюць ім праз тое намеснікі жадных крыўд чыніці і навін уводзіці і ва ўсім маюць захаваны быці водле старадаўняга звычаю, як і за продкаў нашых бывала і за першыхураднікаў нашых». А ў грамаце насельніцтву Чачэрскай вол. 1547 вял. князь адзначаў, што ў выпадках забойства, гвалту, крадзяжу неабходна «караць водлуг звычаю паспалітага і статуту земскага». У некат. прывілеях рэгламентаваўся парадак збору пошлін, раскладу павіннасцяў («поруб»), выбару старцаў ці нават забароны таго, што раней дазвалялася. Так, у гаспадарскай грамаце сялянам Чачэрскай вол. 1547 адназначна запісана: «ино што ся дотычит мыта и выбираня старца, то ест рэч наш(а) г(оспо)д(а)рьская, а не в(а)ша хлопская». У В.г. часта ўпамінаюцца стараж. прававыя звычаі (куніца, палюддзе), распісваецца парадак збору даніны ў розных мясцовасцях, яе расклад паміж насельніцтвам. В.г. — каштоўныя гіст. крыніцы, якія змяшчаюць звесткі па краязнаўстве і мовазнаўстве, гісторыі права, землеўладання і землекарыстання, павіннаснага абкладання насельніцтва.

*Валянцін Голубеў.*

**валачобнае**, натуральная павіннасць у ВКЛ. Першапачаткова — святочнае паднашэнне пану на Вялікдзень, пасля — сталая павіннасць, як і *каляднае*. Штогод на Вялікдзень і Каляды сяляне павінны былі прыносіць на панскі двор пэўную колькасць яек, курэй і інш. Напр., у маёнтку Хацецічы Менскага ваяв. ў 1783 В. складалася з 10 яек і 2 дзесяткаў лыка, а каляднае — па 1 курыцы з дыма.

*Валерый Пазднякоў.*

**Валашскае княства** (Уграўлахія, Мунцянская зямля, Румынская зямля, зямля Басараба, у турэцкіх дакументах — Іфлака, Кара Іфлака; з 15 ст. распаўсюдзілася назва Валахія), феадальная дзяржава ў Дунайскім рэгіёне. Разам з *Малдаўскім княствам* насіла агульную назву Дунайскае княства. Сталіца — першапачаткова Курця-дэ-Ардзеш, з 1383 Бухарэст. Утварылася ў пач. 14 ст. ў выніку аб'яднання некалькіх валашскіх княстваў. Тэр. В.к. была заціснута паміж Дунаем (з Пд і З) і перадгор'ямі Паўд. Карпат (з Пн) і паступова павялічвалася на У (у раён вусцяў Дуная) і ПдУ (у раён паміж Усх. Карпатамі і прытокам Дуная р. Сірэт). З 1344 было ў васальнай залежнасці ад венгерскага караля. Пасля Крэўскай уніі Польскага каралеўства і ВКЛ 1385 абазначылася збліжэнне абедзвюх дзяржаў з Валахіяй у сувязі з антывенгерскай накіраванасцю іх палітыкі. У 1380 заключаны польска-валашскі дагавор супраць Венгрыі. У 1403 валашскі ваявода Мірча Стары зацвердзіў пагадненне са «сваім сябрам Ягайлам». Такое ж пагадненне заключана ў 1411. Са з'яўленнем асманскай небяспекі Валахія выявіла зацікаўленасць у збліжэнні з Венгрыяй для сумесных дзеянняў супраць туркаў. В.к. няўдала ўключылася ва ўнутраную барацьбу ў Асманскай імперыі, каб пазбегнуць нашэсця, у 1413 вымушана было пайсці на выплату асманам даніны. Спробы пазбавіцца асманскай залежнасці шляхам прыняцця венгерскага ці польскага сюзерэнітэту заканчваліся няўдачамі. Неаднаразова В.к. вымушана было плаціць даніну 2, а то і 3 бакам. Трапіўшы ў залежнасць ад турэцкага султана, Валахія захавала свой дзярж. лад і мясц. кіраванне. Аўтаномнай заставалася і царква, падначаленая Канстанцінопальскай патрыярхіі. Порта мела права зацвярджаць на валашскі стол гаспадароў, якіх прапаноўвала мясц. баярства. З канца 16 ст. апошняе стала неабавязковым. Валашскія гаспадары былі абавязаны пасылаць у Стамбул у якасці заложнікаў сыноў або бліжэйшых сваякоў. Знешняя палітыка В.к. была поўнасцю падпарадкавана Порце. Якія-небудзь захады ў знешняй палітыцы былі магчымы толькі тады, калі яны не супярэчылі інтарэсам султана. Больш-менш самастойнымі былі сувязі Валахіі з Малдовай, Сяміграддзем (Трансільваніяй) і Крымскім ханствам. Адносіны з Польшчай і ВКЛ знаходзіліся пад поўным кантролем з боку Асманскай імперыі і зводзіліся да ўрэгулявання памежных спрэчак. З апошніх найб. значнай для Валахіі была кілійская праблема. Як адна з асноўных яна разглядалася на з'ездзе ў Луцку ў 1429. Венгерскі і літ. бакі нават прапанавалі перадаць Кілію тэўтонскім рыцарам для іх барацьбы з асманамі. Пытанне аб Кіліі было аддадзена на арбітраж Вітаўта. У 1429 у Троках сабраліся валашскія і малдаўскія прадстаўнікі, але апошнія адмовіліся падпарадкоўвацца Вітаўту. Перагаворы скончыліся безвынікова. Кілія належала пачаргова Валахіі, Малдове, Венгрыі, але ў 1484 была канчаткова захоплена асманамі. У канцы 16 ст. В.к. стала цэнтрам антыасманскай барацьбы. Але, перацягнуўшы на свой бок Сяміграддзе і Малдову, валашскі гаспадар выклікаў процідзеянне Рэчы Паспалітай. Польска-татарскі рэйд гетмана Я.Замойскага парушыў планы валашскага гаспадара. Малдова і Валахія былі захоплены і сталі на кароткі час васаламі Рэчы Паспалітай. Такім чынам, рукамі Рэчы Паспалітай Турцыя знішчыла свайго гал. ворага. Пасля гэтага асманскі ўплыў на В.к. быў хутка адноўлены (1601). У 1634 Асманская імперыя і Рэч Паспалітая заключылі пагадненне, паводле якога апошняя абавязвалася не рабіць нічога, каб адарваць Валахію ад асманскіх уладанняў. У час Хмяльніччыны В.к. заключыла пагадненне з укр. гетманам, да якога прыхільна ставілася Порта, бо ёй было выгадна аслабленне Рэчы Паспалітай. Султан нават выслаў загад Валахіі дапамагаць укр. гетману ў барацьбе супраць Рэчы Паспалітай. Вызваленне В.к. з-пад асманскай няволі і стварэнне Румынскай дзяржавы адбылося толькі ў 1878.

*Віктар Цемушаў.*

**валашчане**, валашане, жыхары пэўнай *воласці*.

**Валезы** Генрык, гл. *Генрык.*

**Валіканітэ** (Valikonytė) Ірэна (н.10.03.1949, г. Радвілішкіс, Літва), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (1979). Скончыла Вільнюскі ун-т (1971), дзе выкладае з 1973, з 1993 заг. кафедры гісторыі стараж. свету і сярэдніх вякоў; дацэнт (1988), в.а. прафесара (2002). Даследуе Статуты ВКЛ, Метрыку ВКЛ, статут жанчыны і прававую культуру ВКЛ. Удзельнічала ў падрыхтоўцы акадэмічнага выдання Статута ВКЛ 1529 («Первый Литовский Статут». Т. 2, ч. 1. Вільнюс, 1991), кніг Метрыкі ВКЛ № 4, 6, 8, 10, 11 (1995—2003).

*Тв.*: Pirmasis Lietuvos Statutas (1529 m.). Vilnius, 2001 (з Э.Гудавічусам, С.Лазуткам).

**Валіцкі** Міхал (сапр. Міцкевіч; 1746, Навагародчына—1828), авантурыст і філантроп. З сям'і дробнага шляхціца. Вучыўся ў менскіх езуітаў, потым у Магілёве. Працаваў віцэ-рэгентам у судах Менска. Схільнасць да авантур і прыгод прымусіла В. пакінуць працу і пераехаць у Кракаў. У доме, дзе ён кватараваў, быў більярд, у гульні на якім В. здабыў дасканаласць, як і ў гульні ў карты. Рызыкоўная і маляўнічая гульня В. прыцягнула ўвагу кн. Сапегі, які забраў яго з сабой у Вену. Выйграўшы вял. суму грошай, В. пакінуў Сапегу і з венгерскім кн. Эстэргазі пераехаў у Парыж. Тут ён пазнаёміўся з бел. магнатам К.Вясялоўскім, ад якога паступова пераняў дасканалыя манеры паводзін пры двары і грунтоўныя веды ў розных навуках, шмат увагі аддаваў самаадукацыі. Вял. грошы ад картачных выйгрышаў дазволілі В. адкупіць у ваяводы Б.Валіцкага прозвішча і права належаць да роду апошняга. У 1787 В. купіў сабе пасаду падстолія кароннага ў С.Солтыка. У пошуках доступу да франц. каралеўскага двара В. паехаў у Італію, дзе купіў сабе графскі тытул. Пасля вяртання ў Парыж прыняты пры двары караля Людовіка XVI, з дапамогай сваёй каханкі княгіні Паліньяк стаў фаварытам каралевы Марыі Антуанеты. Выкананне сакрэтных даручэнняў каралеўскай сям'і, гульня ў карты пры двары па высокіх стаўках далі В. магчымасць набыць значны капітал у грошах і каштоўнасцях. Пасля вяртання В. ў Рэч Паспалітую яго графскі тытул пацвердзіў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Спачатку В. пасяліўся ў Варшаве, потым пераехаў у Санкт-Пецярбург, дзе здзіўляў вышэйшы свет вял. калекцыяй каштоўных камянёў, дасканалымі манерамі, шыкоўнымі прыёмамі, адукаванасцю і дабрачыннасцю. Пісьменніца дэ Жанліс, уражаная незвычайным сапфірам з калекцыі В., прысвяціла гэтаму каменю аповесць. Відаць, рызыкоўныя махінацыі з каштоўнасцямі вымусілі В. перабрацца спачатку ў Гародню, дзе яшчэ ў 1793 ён набыў т.зв. палац віцэ-адміністратара, потым у фальварак Азёры Гарадзенскага пав. Тут В. стварыў узорную гаспадарку, заснаваў суконную і папяровую мануфактуры. Значную частку сваёй калекцыі каштоўных камянёў ён падараваў Віленскаму ун-ту. Пад назвай «калекцыя графа Валіцкага» яна апісана С.Б.Юндзілам (паводле шэрага гіст. крыніц, пазней захоўвалася ў Эрмітажы). В. фундаваў навучанне ў Віленскім ун-це сваіх сваякоў па лініі Міцкевічаў і Валіцкіх. Апошнія гады жыцця правёў у Вільні.

*Ігар Трусаў.*

**Валкайтэ-Кулікаўскене** (Volkaitė-Kulikauskienė) Рэгіна (н. 10.9.1916, г. Кедайняй, Літва), літоўскі археолаг. Чл.-кар. Літ. АН (1972), д-р гіст. навук (1968). Засл. дзеяч навукі Літвы (1976). Вучылася ў Каўнаскім (1936—39) і Вільнюскім (1939—40) ун-тах. У 1938—39 працавала ў Музеі культуры Каўнаскага ун-та. У 1940 узначальвала Археалагічны музей Вільнюскага ун-та. У 1940—41 нам. загадчыка Дагістарычнага аддзела Музея культуры Каўнаскага ун-та. У 1941—45 і 1948—62 выкладала ў Вільнюскім (з 1952 заг. кафедры археалогіі і этнаграфіі), у 1945—47 у Каўнаскім ун-тах. У 1962—92 старшы і вядучы навук. супрацоўнік аддзела археалогіі Ін-та гісторыі ў Вільнюсе. Даследуе стараж. матэрыяльную культуру Літвы, этнагенез літоўцаў. Праводзіла шырокамаштабныя археал. даследаванні могільнікаў і гарадзішчаў Літвы жалезнага веку і эпохі феадалізму (у т.л. гарадзішчы Наркунай, Майшагала, Пуня, Кернавы).

*Тв.*: Lietuvos archeologiniai paminklai ir jų tyrinėjimai. Vilnius, 1958; Lietuvos archeologijos bruožai. Vilnius, 1961 (з П.Кулікаўскасам, А.Таўтавічусам); О весах и весовой системе в Литве в эпоху раннего феодализма // От эпохи бронзы до раннего феодализма. Таллин, 1966; Lietuviai IX—XII amžiais. Vilnius, 1970; Lietuvio kario žirgas. Vilnius, 1971; Punios piliakalnis. Vilnius, 1974; Lietuvių materialinė kultūra IX—XIII amžiuje. T. 1—2. Vilnius, 1978—81 (у сааўт.); Земледелие в Восточной Литве в XIII—XV вв.: (по данным исследований Майшягальского городища) // Восточная Европа в древности и средневековье. М., 1978; Образование литовской народности: (По данным археологии) // Советская этнография. 1979. № 3; Редкие монеты из Восточной Литвы // Советская археология. 1981. № 4 (з А.Лухтанам); Одежда литовцев с древнейших времен до XVII в. // Древняя одежда народов Восточной Европы. М., 1986; Lietuvių etnogenezė. Vilnius, 1987 (у сааўт.); Senovės lietuvių drabužiai ir jų papuošalai (I—XVI a.). Vilnius, 1997; Vakarų baltai: Etnogenezė ir etninė istorija. Vilnius, 1997 (з І.Балчунене, Р.Меркене); Lietuva valstybės priešaušriu. Vilnius, 2001.

*Літ.*: Lietuvos archeologija. T. 21. Vilnius, 2001 (змешчана бібліяграфія прац В.-К.).

**Валовіч** Астафій Багданавіч (каля 1520—20.11.1587), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Валовічаў*. Пісар ВКЛ у 1551—66, маршалак дворскі (гаспадарскі) у 1553—61, маршалак дворны ў 1561—69, падскарбі земскі ВКЛ у 1561—66, падканцлер ВКЛ у 1566—79, кашталян троцкі ў 1569—79, канцлер ВКЛ і кашталян віленскі з 1579; падстараста берасцейскі з 1550, дзяржаўца медніцкі ў



А.**Валовіч**.

1552—61, староста магілёўскі ў 1554—56, азярышчанскі ў 1563, берасцейскі ў 1565—87, кобрынскі ў 1567—87 і рэчыцкі з 1576. Некалькі разоў ездзіў паслом у Маскву, у т.л. ў 1553, калі Іва-

на IV не назваў царом. Камандаваў харугвай пры аблозе і ўзяцці Полацка ў 1579, у 1580 са сваім атрадам узяў Усвяты. Адзін з лідэраў апазіцыі пры заключэнні *Люблінскай уніі 1569*. Разам з інш. магнатамі — праціўнікамі аб'яднання ВКЛ з Каронаю пакінуў Люблінскі сойм, паслаў на Падляшша і Валынь адозвы з заклікам змагацца супраць уніі. За гэта быў пазбаўлены каралеўшчын (дзярж. маёнткаў) на Падляшшы. Пасля прыняцця уніі падпісаў яе і яму былі вернуты каралеўшчыны. Разам з Я.Г.Хадкевічам выступіў супраць кандыдатуры Стафана Баторыя на каралеўскі трон, быў прыхільнікам абрання аўстрыйскага эрцгерцага Эрнста, але пасля абрання Баторыя перайшоў на яго бок. Адзін з арганізатараў падрыхтоўкі *Статута Вялікага княства Літоўскага 1566*. Садзейнічаў уключэнню ў Статут прагрэсіўных норм. Паводле веравызнання кальвініст, у канцы жыцця прыхільна ставіўся да антытрынітарызму, падтрымліваў гуманістаў В.Цяпінскага, Якуба з Калінаўкі і С.Буднага. Апошні прысвяціў яму кнігу «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» (Нясвіж, 1562). У сваім тастаменце наказаў вызваліць усіх сваіх нявольных людзей. Быў жанаты з Фядорай Паўлаўнай Сапяжанкай, меў дачку Рэгіну.

*Літ.*: Саверчанка І. Астафей Валовіч: (Гіст.-біягр. нарыс). Мн., 1992.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Валовічы**, шляхецкі род герба «Багорыя». Напачатку вызнавалі праваслаўе, у 16 ст. сярод іх многа прыхільнікаў кальвінізму, з канца 16 ст. пераходзілі ў каталіцтва. Тады ж род падзяліўся на некалькі галін. У 1798—1900 адна з іх мела графскі тытул (згасла). Родапачынальнік — Ходка (Ходзька, Фёдар), які ў 1-й пал. 15 ст. жыў у Гарадзенскім пав. Найб. вядомыя:

Грынька Ходкавіч (Хадкевіч, Рыгор Фёдаравіч; ?—пасля 1503), сын Ходкі. Канюшы ВКЛ у 1451—59, гараднічы гарадзенскі ў 1488—95, намеснік перавольскі ў 1503. Упершыню названы Валовічам у грамаце 1499. У 1480 зрабіў уклад у манастыр на Каложы (Гародня).

Багдан Грынькавіч (?—14.4.1539), сын Грынькі Ходкавіча. Гарадзенскі канюшы з 1508 і войскі з 1529, намеснік крынскі, скідзельскі і азёрскі з 1537.

Іван Грынькавіч (?—пасля 1547), сын Грынькі Ходкавіча. Падскарбі гаспадарскі ў 1525, канюшы троцкі з 1536.

Лука Грынькавіч (?—?), сын Грынькі Ходкавіча. Ключнік гарадзенскі.

Рыгор Грынькавіч (?—пач. 1586), сын Грынькі Ходкавіча. Маршалак гаспадарскі ў 1558—65, кашталян навагародскі з 1566, староста слонімскі ў 1560—84.

Рыгор Багданавіч (?—1577), сын Багдана Грынькавіча. Гаспадарскі дваранін з 1548, гараднічы гарадзенскі ў 1558—66, маршалак гаспадарскі ў 1560—63, лоўчы ВКЛ у 1567—74, ваявода смаленскі з 1571; староста мсціблаўскі ў 1548—67, мельніцкі і ласіцкі з 1566, дзяржаўца эйшышскі, каняўскі, варнянскі, дубіцкі і зэльвенскі ў 1558—69, мерацкі ў 1569—76. Пасол у Маскву ў 1563.

Астафій Багданавіч (каля 1520—87), сын Багдана Грынькавіча. Гл. *Валовіч* А.Б.

Геранім Рыгоравіч (Яраш; ?—1636), сын Рыгора Багданавіча. Каралеўскі сакратар, пісар ВКЛ у 1589—1618, падскарбі дворны ў 1600—05, падскарбі земскі ВКЛ у 1605—18, падканцлер ВКЛ у 1618—19, староста генеральны жамойцкі з 1619; староста кобрынскі. Прыбліжаны караля Жыгімонта III. У Гародні пабудаваў мост цераз Нёман.

Астафій (?—1630). Вучыўся ў Рыме. Кусташ, канонік віленскі, кантар, пробашч троцкі, рэферэндар духоўны ВКЛ у 1600—15, пісар ВКЛ у 1605—15, падканцлер ВКЛ у 1615—18, біскуп віленскі з 1616. З-за вял. тэр. Віленскага біскупства стварыў *Беларускі архідыяканат* на чале з біскупам-суфраганам (намеснікам віленскага біскупа). У час яго кіравання пабудавана 26 касцёлаў (гал. чынам на З Беларусі). Удзельнік пасольства Рэчы Паспалітай да рымскага папы ў 1595 і інш. пасольстваў.

Уладзіслаў (?—15.9.1668), сын Пятра. Дваранін Уладзіслава IV. Удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, трапіў у палон, але рас. ваявода М.Б.Шэін адпусціў яго, каб перадаць каралю просьбу аб заключэнні міру. Харужы троцкі ў 1636—53, пісар польны ВКЛ у 1639—53, ваявода віцебскі з 1656, адначасова польны гетман ВКЛ з 1667; пасол на сойм 1647. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* на Беларусі замяніў вял. гетмана ВКЛ Я.Кішку, які захварэў, узначаліў адзін са шляхецкіх атрадаў, неаднаразова разбіты казакамі



Да арт. **Валовічы**. Віленскі біскуп А.Валовіч.

і паўстанцамі ў Мазырскім пав. Разам з атрадам зачыніўся ў Слуцку. Выйграў некалькі баёў з сялянска-казацкімі атрадамі пад Валожынам, Рэчыцай, Бабруйскам, Чэрыкавам. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* узначаліў злучэнне войска ВКЛ, у 1658 перамог рас. войска каля Глыбокага. У 1659 разбіты войскам І.А.Хаванскага. Ваяваў таксама супраць шведаў.

Вінцэнт Пётр (1670—9.11.1737), падкаморы мсціслаўскі з 1699, рэферэндар свецкі ВКЛ у 1709—27, дыпламат. З 1728 езуіт.

Антоні Эразм (24.9.1711—6.7.1770), канонік гнезненскі, архідыякан жамойцкі, канонік віленскі з 1742, пісар ВКЛ у 1744—48, вял. сакратар духоўны ВКЛ у 1748—55, біскуп луцкі і берасцейскі з 1755, канцлер каралевы. На соймах выступаў супраць дысідэнтаў.

Андрэй (1750—9.3.1822). Вучыўся ў Варшаве і Рыме, займаў розныя духоўныя пасады. Рэферэндар духоўны ВКЛ у 1791—94. У час праўлення Таргавіцкай канфедэрацыі адмовіўся ад пасады рэферэндара, пасля чаго актыўны паліт. і грам. дзейнасцю не займаўся. З 1818 біскуп калішскі.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Валожын** (цяпер горад, цэнтр Валожынскага р-на Мінскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв., на р. Валожынка. Паводле Хронікі Быхаўца, у 1440-х г. тут гаспадарылі легендарныя князі Валожын-



скія, у якіх нібыта за ўдзел у змове супраць вял. князя ВКЛ у 1445 В. быў канфіскаваны. Каля 1450 вял. кн. Казімір падараваў В. віленскаму ваяводу Я.Манівідавічу, у 1484 — кн. В.М.Вярэйскаму. У 1492 упершыню ўпамінаецца касцёл. У пач. 16 ст. належаў С.В.Вярэйскай і яе мужу А.Гаштольду; у В. Спаская і Пятніцкая правасл.цэрквы. З 1549 уласнасць вял. князя Жыгімонта II Аўгуста, кіравалася дзяржаўцамі. У 1582 маёнтак В. — уласнасць вял. гетмана ВКЛ М.Радзівіла Рудога. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 у Ашмянскім пав. Віленскага ваяв. У 1614 гетман ВКЛ К.Радзівіл прадаў маёнтак В. кашталяну менскаму і жамойцкаму А.Слушку. У 1681 маршалак надворны Ю.Б.Слушка заснаваў у В. касцёл і кляштар бернардзінцаў, дзейнічала школа. У 1683 заснавана правасл. брацтва. З канца 17 ст. цэнтр староства. У пач. 18 ст. ў В. 107 двароў, 5 вуліц, 2 царквы, 2 касцёлы, у 1710 пабудавана драўляная уніяцкая царква. З 1738 уласнасць Чартарыйскіх. У 1790 у мястэчку 186 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі.

*Валерый Грынявецкі.*

**валока**, асноўная зямельная мера і адзінка абкладання сялян павіннасцямі ў ВКЛ. Ужывалася з пач. 16 ст. На Беларусі памер зямлі на В. пачаўся ў 1540-я гады ва ўладаннях каралевы Боны, пасля прыняцця *«Уставы на валокі» 1557* — у дзярж. маёнтках зах. і цэнтр. Беларусі і Літвы, пазней на землях магнатаў, шляхты і духавенства. Ва ўладаннях многіх дробных землеўладальнікаў памер на В. не праводзіўся. Як адзінка вымярэння плошчы ўваходзіла ў сістэму мер ВКЛ, складалася з 30 маргоў, або 9000 прутоў (21,36 га). В. як зямельны надзел павінна была складацца з 3 роўных палёў, што адпавядала 3-польнай сістэме земляробства. Часта да надзелу дадавалі 3 маргі на сядзібу і агарод. «Устава на валокі» прадугледжвала В. ў 33 маргі, па 11 маргоў у кожным полі. Пры кепскай зямлі практыкаваліся т.зв. «наддаўкі», і таму памер В. вагаўся ад 30 да 46 маргоў, але ўсе В. абкладаліся аднолькавымі павіннасцямі. Паводле спосабу вымярэння В. былі «праганяныя» (кожнае з 3 палёў было суцэльным) і «маргаваныя» (складаліся з некалькіх розных па плошчы і форме кавалкаў зямлі). У залежнасці ад якасці зямлі В. падзяляліся на добрыя, сярэднія, кепскія і вельмі кепскія. Ад якасці В. залежалі памеры *чыншу*. Паводле павіннаснага абкладання адрознівалі В. цяглыя (*паншчына*), асадныя (чынш), вольныя ад павіннасці (даваліся службоўцам і вясковай адміністрацыі). Былі В. аселыя (знаходзіліся ў пастаянным карыстанні сялян), прыёмныя, або бакавыя (у часовым карыстанні), пустыя, або непрынятыя (не ўзятыя ў карыстанне). Часта павіннасці накладаліся не на цэлую В., а на створаныя ў яе межах надзелы, якія знаходзіліся ў карыстанні асобных *дымоў* — паўвалоччы, трацiны, чвэрці В.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Валочная памера.*

*Валянцін Голубеў.*

**валоўшчына**, штогадовы дзярж. падатак на Валыні ў 15—пач. 16 ст. Плацілі землеўладальнікі з «валовай сахі» — зямельнага надзелу, які мог быць узараны запрэжкай валоў. У 1502 вял. князь Аляксандр з-за татарскага спусташэння вызваліў валынян ад В. на 12 гадоў, а ў 1509 вял. князь Жыгімонт Стары, пацвярджаючы абласны прывілей Валыні, скасаваў В. Падатак стаў прыватнаўладальніцкім і зліўся з інш. паборамі з валашчан.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Том 1. С. 715—717.

*Валерый Пазднякоў.*

**валочная памера**, аграрная рэформа ў ВКЛ у 16—1-й пал. 17 ст., комплекс эканам., сац. і тэхн. мерапрыемстваў па ўдасканаленні сістэмы землекарыстання і абкладання сялян феад. павіннасцямі. Праводзілася з мэтай павелічэння даходаў феадалаў. У яе аснове — абмер зямлі на *валокі* і ўвядзенне іх у якасці гал. адзінак абкладання сялян павіннасцямі. Рэформа выклікана крызісам ранейшай сістэмы абкладання. Адзінкі абкладання, што гістарычна склаліся ў выглядзе зямлі, *службы, дворышча* і жэрабя, істотна адрозніваліся паміж сабой па наяўнасці вытв. рэсурсаў, асабліва зямельных, колькасці *дымоў* — сял. гаспадарак, якія складалі адну адзінку абкладання. Перадумовай В. п. былі спрыяльныя для феадалаў эканам. і паліт. фактары: адносна высокі ўзровень развіцця прадукц. сіл, рост попыту на с.-г. прадукцыю, у т. л. на збожжа, на ўнутр. і асабліва знешнім рынках, пануючае становішча феадалаў і бяспраўе прыгонных сялян. Задачы В.п. ў гаспадарскіх уладаннях найб. поўна сфармуляваны ва *«Уставе на валокі» 1557* і дапаўненнях да яе 1558. Звесткі аб праўдзенні і выніках В.п. ёсць у «Рэестрах памеры валочнай» (захаваліся часткова).

В. п. суправаджалася значнымі сац. пераўтварэннямі. Праверка правоў на зямлю спрыяла поўнаму аддзяленню прывілеяваных саслоўяў ад сялян. Склаўся выразны падзел сялян паводле характару іх галоўных павіннасцей на 3 асн. катэгорыі: *асадныя сяляне, цяглыя сяляне, сяляне-слугі. Чэлядзь нявольная* ў гаспадарскіх уладаннях была надзелена невял. зямельнымі ўчасткамі і ператворана ў *агароднікаў*. Былі ўтвораны гаспадарчатэр. адзінкі — войтаўствы на чале з *войтамі*. «Устава на валокі» 1557 адносілася толькі да дзярж. уладанняў, аднак у сваіх уладаннях В. п. феадалы звычайна праводзілі паводле інструкцый, блізкіх да яе. У іх маёнтках нормы павіннасцей з валокі звычайна перавышалі адпаведныя нормы «Уставы на валокі».

У 1530-я г. В.п. першай пачала ажыццяўляць на сваіх землях жонка караля вял. князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I Бона, за ёю — яе сын вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст і некаторыя, пераважна буйныя, феадалы ў зах. землях ВКЛ. У ходзе В.п. ў гаспадарскіх уладаннях быў выкананы значны аб'ём землеўпарадкавальных работ, ліквідавана цераспалосіца шляхам абмену зямлі. Зведзеныя ў адзін кавалак (абруб), сял. землі былі падзелены на валокі, вызначана якасць глебы (добрая, сярэдняя, кепская і да т.п.). Сялянскія сялібы былі перанесены на сярэднія палі, хаты размешчаны па адным баку вуліцы, гасп. будынкі — па другім. Устаноўлена новая сістэма відаў і норм павіннасцей з валокі ў адпаведнасці з якасцю глебы. Частка натуральнай даніны і павіннасцей была заменена на грашовыя выплаты. Адну валоку звычайна бралі 2 сям'і асадных або цяглых сялян. Іншыя ўгоддзі, як і раней, заставаліся ў агульным уладанні і карыстанні сельскіх абшчын.

У 1560 на аснове спец. уставы была праведзена рэформа сістэмы землекарыстання і абкладання феад. павіннасцямі гаспадарскіх сялян-*даннікаў* у падняпроўскіх валасцях. У якасці асн. адзінкі абкладання была ўведзена *служба* — надзел ворыва плошчай з валоку. Пры гэтым памеры надзелу, якасць глебы найчасцей вызначаліся без інструмен-



скія, у якіх нібыта за ўдзел у змове супраць вял. князя ВКЛ у 1445 В. быў канфіскаваны. Каля 1450 вял. кн. Казімір падараваў В. віленскаму ваяводу Я.Манівідавічу, у 1484 — кн. В.М.Вярэйскаму. У 1492 упершыню ўпамінаецца касцёл. У пач. 16 ст. належаў С.В.Вярэйскай і яе мужу А.Гаштольду; у В. Спаская і Пятніцкая правасл.цэрквы. З 1549 уласнасць вял. князя Жыгімонта II Аўгуста, кіравалася дзяржаўцамі. У 1582 маёнтак В. — уласнасць вял. гетмана ВКЛ М.Радзівіла Рудога. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 у Ашмянскім пав. Віленскага ваяв. У 1614 гетман ВКЛ К.Радзівіл прадаў маёнтак В. кашталяну менскаму і жамойцкаму А.Слушку. У 1681 маршалак надворны Ю.Б.Слушка заснаваў у В. касцёл і кляштар бернардзінцаў, дзейнічала школа. У 1683 заснавана правасл. брацтва. З канца 17 ст. цэнтр стараства. У пач. 18 ст. ў В. 107 двароў, 5 вуліц, 2 царквы, 2 касцёлы, у 1710 пабудавана драўляная уніяцкая царква. З 1738 уласнасць Чартарыйскіх. У 1790 у мястэчку 186 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**валока**, асноўная зямельная мера і адзінка абкладання сялян павіннасцямі ў ВКЛ. Ужывалася з пач. 16 ст. На Беларусі памер зямлі на В. пачаўся ў 1540-я гады ва ўладаннях каралевы Боны, пасля прыняцця *«Уставы на валокі» 1557* — у дзярж. маёнтках зах. і цэнтр. Беларусі і Літвы, пазней на землях магнатаў, шляхты і духавенства. Ва ўладаннях многіх дробных землеўладальнікаў памер на В. не праводзіўся. Як адзінка вымярэння плошчы ўваходзіла ў сістэму мер ВКЛ, складалася з 30 маргоў, або 9000 прутоў (21,36 га). В. як зямельны надзел павінна была складацца з 3 роўных палёў, што адпавядала 3-польнай сістэме земляробства. Часта да надзелу дадавалі 3 маргі на сядзібу і агарод. «Устава на валокі» прадугледжвала В. ў 33 маргі, па 11 маргоў у кожным полі. Пры кепскай зямлі практыкаваліся т.зв. «наддаўкі», і таму памер В. вагаўся ад 30 да 46 маргоў, але ўсе В. абкладаліся аднолькавымі павіннасцямі. Паводле спосабу вымярэння В. былі «праганяныя» (кожнае з 3 палёў было суцэльным) і «маргаваныя» (складаліся з некалькіх розных па плошчы і форме кавалкаў зямлі). У залежнасці ад якасці зямлі В. падзяляліся на добрыя, сярэднія, кепскія і вельмі кепскія. Ад якасці В. залежалі памеры *чыншу*. Паводле павіннаснага абкладання адрозніваліВ. цяглыя (*паншчына*), асадныя (чынш), вольныя ад павіннасці (даваліся службоўцам і вясковай адміністрацыі). Былі В. аселыя (знаходзіліся ў пастаянным карыстанні сялян), прыёмныя, або бакавыя (у часовым карыстанні), пустыя, або непрынятыя (не ўзятыя ў карыстанне). Часта павіннасці накладаліся не на цэлую В., а на створаныя ў яе межах надзелы, якія знаходзіліся ў карыстанні асобных *дымоў* — паўвалоччы, траціны, чвэрці В.

*Літ.*: Гл. пры арт. *Валочная памера*.

***Валянцін Голубеў.***

**валоўшчына**, штогадовы дзярж. падатак на Валыні ў 15—пач. 16 ст. Плацілі землеўладальнікі з «валовай сахі» — зямельнага надзелу, які мог быць узараны запрэжкай валоў. У 1502 вял. князь Аляксандр з-за татарскага спусташэння вызваліў валынян ад В. на 12 гадоў, а ў 1509 вял. князь Жыгімонт Стары, пацвярджаючы абласны прывілей Валыні, скасаваў В. Падатак стаў прыватнаўладальніцкім і зліўся з інш. паборамі з валашчан.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Том 1. С. 715—717.

***Валерый Пазднякоў.***

**валочная памера**, аграрная рэформа ў ВКЛ у 16—1-й пал. 17 ст., комплекс эканам., сац. і тэхн. мерапрыемстваў па ўдасканаленні сістэмы землекарыстання і абкладання сялян феад. павіннасцямі. Праводзілася з мэтай павелічэння даходаў феадалаў. У яе аснове — абмер зямлі на *валокі* і ўвядзенне іх у якасці гал. адзінак абкладання сялян павіннасцямі. Рэформа выклікана крызісам ранейшай сістэмы абкладання. Адзінкі абкладання, што гістарычна склаліся ў выглядзе зямлі, *службы, дворышча* і жэрабя, істотна адрозніваліся паміж сабой па наяўнасці вытв. рэсурсаў, асабліва зямельных, колькасці *дымоў* — сял. гаспадарак, якія складалі адну адзінку абкладання. Перадумовай В. п. былі спрыяльныя для феадалаў эканам. і паліт. фактары: адносна высокі ўзровень развіцця прадукц. сіл, рост попыту на с.-г. прадукцыю, у т. л. на збожжа, на ўнутр. і асабліва знешнім рынках, пануючае становішча феадалаў і бяспраўе прыгонных сялян. Задачы В.п. ў гаспадарскіх уладаннях найб. поўна сфармуляваны ва *«Уставе на валокі» 1557* і дапаўненнях да яе 1558. Звесткі аб правядзенні і выніках В.п. ёсць у «Рэестрах памеры валочнай» (захаваліся часткова).

В. п. суправаджалася значнымі сац. пераўтварэннямі. Праверка правоў на зямлю спрыяла поўнаму аддзяленню прывілеяваных саслоўяў ад сялян. Склаўся выразны падзел сялян паводле характару іх галоўных павіннасцей на 3 асн. катэгорыі: *асадныя сяляне, цяглыя сяляне, сяляне-слугі. Чэлядзь нявольная* ў гаспадарскіх уладаннях была надзелена невял. зямельнымі ўчасткамі і ператворана ў *агароднікаў*. Былі ўтвораны гаспадарча-тэр. адзінкі — войтаўствы на чале з *войтамі*. «Устава на валокі» 1557 адносілася толькі да дзярж. уладанняў, аднак у сваіх уладаннях В. п. феадалы звычайна праводзілі паводле інструкцый, блізкіх да яе. У іх маёнтках нормы павіннасцей з валокі звычайна перавышалі адпаведныя нормы «Уставы на валокі».

У 1530-я г. В.п. першай пачала ажыццяўляць на сваіх землях жонка караля вял. князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I Бона, за ёю — яе сын вял. князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст і некаторыя, пераважна буйныя, феадалы ў зах. землях ВКЛ. У ходзе В.п. ў гаспадарскіх уладаннях быў выкананы значны аб'ём землеўпарадкавальных работ, ліквідавана цераспалосіца шляхам абмену зямлі. Зведзеныя ў адзін кавалак (абруб), сял. землі былі падзелены на валокі, вызначана якасць глебы (добрая, сярэдняя, кепская і да т.п.). Сялянскія сялібы былі перанесены на сярэднія палі, хаты размешчаны па адным баку вуліцы, гасп. будынкі — па другім. Устаноўлена новая сістэма відаў і норм павіннасцей з валокі ў адпаведнасці з якасцю глебы. Частка натуральнай даніны і павіннасцей была заменена на грашовыя выплаты. Адну валоку звычайна бралі 2 сям'і асадных або цяглых сялян. Іншыя ўгоддзі, як і раней, заставаліся ў агульным уладанні і карыстанні сельскіх абшчын.

У 1560 на аснове спец. уставы была праведзена рэформа сістэмы землекарыстання і абкладання феад. павіннасцямі гаспадарскіх сялян-*даннікаў* у падняпроўскіх валасцях. У якасці асн. адзінкі абкладання была ўведзена *служба* — надзел ворыва плошчай з валоку. Пры гэтым памеры надзелу, якасць глебы найчасцей вызначаліся без інструмен-



тальнага вымярэння, прыблізна. Улічвалася таксама наяўнасць, колькасць і якасць іншых угоддзяў, што знаходзіліся ў карыстанні сельскіх абшчын. На час правядзення В. п. тут яшчэ не існавала паншчыны і сяляне плацілі за карыстанне зямлёю пераважна грашыма і збожжам у памерах, вызначаных рэвізорамі. У дзярж. валасцях усх. Беларусі В. п. праведзена ў канцы 16—1-й пал. 17 ст. У 1569 з мэтай павелічэння дзярж. скарбу паводле «навукі» (інструкцыі) пачалася новая рэвізія стану гаспадарскіх уладанняў. Такія рэвізіі неаднаразова праводзіліся і пазней.

В.п. выклікала масавае супраціўленне сялян, якія пратэставалі супраць высокіх норм абкладання і пераводу іх у катэгорыю цяглых падданых. Асн. формай супраціўлення была адмова прымаць валокі паводле вызначаных павіннасцей. Некат. сяляне ўцякалі ў маёнткі іншых феадалаў. Пратэст сялян феадалы гасілі не толькі рознымі ўступкамі, але і грубым прымусам. У выніку В. п. значна ўзмацнілася феад. эксплуатацыя сялян, найперш за кошт павелічэння норм павіннасцей. Нармалізацыя відаў і норм зямельнай рэнты ў значнай ступені уніфікавала эксплуатацыю. Гэта прывяло да далейшага ўзмацнення рэжыму прыгоннага права ў ВКЛ. В.п. была адным з найважнейшых этапаў у працэсе развіцця сістэмы феад. эксплуатацыі сялянства, на стагоддзі вызначыла істотныя рысы аграрнага ладу ў ВКЛ.

*Літ.*: Довнар-Запольский М.В. Берестейское староство в XVI в. // Университетские известия. (Киев). 1898. № 2; Яго ж. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1. С. 292—318; Яго ж. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905. С. 157—286; Kolankowski L. «Pomiara włoczna» // Ateneum Wileńskie. 1927. Z. 13; Conze W. Agrarverfassung und Bevölkerung in Litauen und Weißrußland. 1. Teil. Die Hufenverfassung im ehemaligen Großfürstentum Litauen. Leipzig, 1940; Зеленецкая В.Н. Землеустроительная политика второй половины XVI в. в Белоруссии и Литве и положение различных разрядов сельского населения // Тр. Историко-архивного ин-та. М., 1947. Похилевич Д.Л. Землеустройство и поземельный кадастр в Белоруссии, Литве и Украине в XVI—XVII вв. // Материалы по истории земледелия СССР. М., 1952. Сб. 1; Улащик Н.Н. Кобринская экономия после проведения волочной померы // Уч. зап. Ин-та славяноведения. М., 1957. Т. 15; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. 2 изд. М., 1958; Яго ж. Белоруссия и Литва XV—XVI вв.: (исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития). М., 1961; Kosman M. Pomiara włoczna na Polesiu pińskim // Roczniki dziejów społecznych i gospodarczych. Poznań, 1970. T. 31. Ochmański J. Reforma włoczna w dobrach magnackich i kościelnych w Wielkim Księstwie Litewskim w drugiej połowie XVI wieku // Ochmański J. Dawna Litwa. Olsztyn, 1987.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Валынскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ у 16 ст. і Польскага каралеўства ў 16—18 ст. Створана ў ходзе адм.-тэр. рэформы 1565—66 на аснове Валынскай зямлі. Цэнтр — г. *Луцк*. Складалася з Луцкага, Уладзімірскага і Крэменецкага паветаў. Першы ваявода валынскі — А.Ф.Чартарыйскі (1566—71), першыя кашталяны валынскія (луцкія) — М.Ц.Казінскі (1566—68) і А.І.Вішнявецкі (1568—72). Харугва В.в. карычневага колеру з выявай «Пагоні» (або зямельнага герба — простага белага крыжа) у белым полі. Пасля Люблінскай уніі 1569 у складзе Польскага каралеўства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) паўд.-зах. частка Крэменецкага пав. адышла да Аўстрыі. Пасля 2-га падзелу (1793) усх. палова В.в. далучана да Рас. імперыі. У 1793 са складу В.в. вылучана Уладзімірскае ваяводства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) В.в. далучана да Рас. імперыі.

*Літ.*: Баранович А.И. Залюднення України перед Хмельниччиною: Волинське воеводство. Київ, 1931.

***Валерый Пазднякоў.***

**Валынскі кароткі летапіс**, помнік усходнеславянскага летапісання позняга сярэдневякоўя. Збярогся ў Супрасльскім гіст. зборніку пач. 16 ст. (гл. ў арт. *Супрасльскія рукапісы*), пісаным паўуставам. Яго 1-ю і большую частку складае скарочаны агульнарускі летапісны звод, блізкі да *Аўрамкі летапісу*, але даведзены толькі да 1382 (заканчваецца летапіснай аповесцю пра ўзяцце Масквы ханам Тахтамышам). 2-я частка зборніка, названая М.М.Улашчыкам «В.к.л.», змяшчае кароткую выбарку пагадовых звестак кіеўскага, наўгародскага, маскоўскага і мясц. паходжання па гісторыі Русі (з 862), ВКЛ (14—пач. 16 ст.) і Смаленска. Найб. каштоўныя ў ім заключныя арыгінальныя звесткі, што датычаць паліт. гісторыі ВКЛ. Хараналагічна ахоплівае падзеі да 1514 уключна. Асабліва падрабязна апісаны разбуральныя напады крымскіх татараў на Валынь. Летапіс завяршаецца ўзнёслай «Пахвалой гетману Канстанціну Астрожскаму», у якой кніжнай мовай з выкарыстаннем літ. вобразаў апяваецца яго перамога над маскоўскім войскам у *Аршанскай бітве 1514*. Літоўска-беларускія воіны, піша аўтар, «уподобилися есте своим мужеством храбрым макидоняном…, храбрым рыцерем славного града Родоса». Гал. героя ён параўноўвае з Антыёхам, палкаводцам Аляксандра Македонскага, індыйскім царом Порам і армянскім Тыгранам. Як сведчаць агульны характар усяго Супрасльскага зборніка, а таксама змест, мова і стыль яго заключных арыгінальных запісаў, насычаных царкоўнаславянізмамі, архаічнымі формамі і зваротамі, цытатамі з рэліг. твораў, гэта летапісная кампіляцыя ўзнікла ў асяроддзі праваслаўнага, патрыятычна настроенага бел.-укр. духавенства. Відаць, асноўная, агульнарус. частка летапіснага зводу была ўкладзена ў Смаленску, пасля перавезена ў Супрасль, дзе дапоўнена арыгінальнымі звесткамі па гісторыі ВКЛ, у т.л. Валыні, і «Пахвалой гетману Канстанціну Астрожскаму». Пазней у зборніку рабіліся розныя запісы прыватнага і гіст. характару, у т.л. пра наведанне ў 1543 будучым вял. князем Жыгімонтам II Аўгустам Супрасльскага манастыра, дзе гэты рукапіс і захоўваўся да канца 18 ст. Цяпер зберагаецца ў Рас. дзярж. архіве старажытных актаў у Маскве. Упершыню апублікаваны ў 1836 М.А.Абаленскім.

*Публ.*: Супрасльская рукопись, содержащая Новгородскую и Киевскую сокращенные летописи. М., 1836. С. 127—155; Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско-литовские. М., 1980. С. 118—127.

*Літ.*: Тиховский Ю. Так называемая «Краткая Киевская летопись» // Киевская старина. 1893. № 9; Арнаутов В.А. «Киевская» летопись Супрасльского сборника: (К вопросу о смоленском летописании) // Изв. Отд-ния рус. языка и словесности. 1909. СПб., 1910. Т. 14, кн. 3.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Валынцаўскі кляштар дамініканцаў**, гл. *Забельскі кляштар дамініканцаў*.

**Валынь**, гістарычная вобласць на Украіне ў басейне правых прытокаў Прыпяці і вярхоўях Зах. Буга. З 10 ст. гэтыя землі ў складзе Кіеўскай Русі, у 12 ст. ўтварылася Уладзіміра-Валынскае княства, у канцы 12 ст. — *Галіцка-*



*Валынскае княства*. З сярэдзіны 12 ст. пад уладай валынскіх князёў знаходзілася і Берасцейская зямля. У 1240 В. спустошана манголамі і трапіла ў залежнасць ад Залатой Арды. З канца 13 ст. на В. існавала *Луцкая праваслаўная епархія*. Відаць, у 1320-х г. у Луцку стаў княжыць Любарт, з чаго пачаўся працэс уваходжання В. ў склад ВКЛ. У 1340 польскі кароль Казімір III захапіў Галіцкую зямлю са Львовам і ў саюзе з Венгрыяй пачаў узбр. барацьбу супраць ВКЛ за В. У 1349 ён захапіў Луцк, Уладзімір, Берасце, Холм. У адказ Кейстут у маі 1350 заняў Луцк, Радам, Сандамір, а ў 1351 — Львоў, Белз, Уладзімір, Берасце. Паводле перамір'я 1352 Галіччына адышла да Польшчы, а В. засталася ў складзе ВКЛ, акрамя Крэменецкай вол., дзе правіў кн. Юрый Нарымонтавіч як сумесны васал ВКЛ і Польшчы. У 1366 Казімір III захапіў у Любарта Холм, Белз, Уладзімір. Пасля яго смерці (1370) Любарт і Кейстут вярнулі сабе Уладзімір, а пасля смерці наступнага польскага караля Людвіка I (1382) Любарт узяў астатнія валынскія гарады, акрамя Холма і Белза, якія назаўсёды засталіся ў складзе Польскага каралеўства. Пасля смерці Любарта (каля 1384) В. адышла да яго сына Фёдара. Польскі кароль Уладзіслаў II (Ягайла) у канцы 1386 забраў сабе большую частку В. з Луцкам і ў 1388 перадаў яе Вітаўту як кампенсацыю за страчаныя ім уладанні. Пасля *Востраўскага пагаднення 1392* Вітаўт падначаліў сабе ўсю В., выгнаўшы Фёдара Любартавіча з Уладзіміра, і перадаў яе кіеўскаму кн. Скіргайлу. Пасля смерці Вітаўта (1430) Ягайла вярнуў Уладзімір Фёдару, але той неўзабаве памёр, завяшчаўшы свае ўладанні Ягайлу. Аднак польскія войскі выбілі з В. вял. князь літоўскі Свідрыгайла. Новы вял. князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч у 1438 захапіў у яго Луцк і большую частку В. У заключаных з Польшчай актах дзярж. уніі Жыгімонт перадаў пасля сваёй смерці В. польскай кароне. Пасля смерці Жыгімонта В. падначаліў сабе кн. Сангушка, які ў канцы 1440—пач. 1441 вёў супраць Польшчы ваенныя дзеянні за гарады Ратна і Любомль. У пач. 1442 валынскія князі і паны перадалі В. пад уладу Свідрыгайлы, імкнучыся выйсці з-пад уплыву цэнтр. улады ВКЛ, аднак Крэменецкі пав. застаўся пад уладай новага вял. князя літоўскага Казіміра IV. Свідрыгайла лічыў сябе незалежным манархам В., працягваў тытулавацца вял. князем. У 1445 прызнаў сябе васалам Казіміра IV. Пасля смерці Свідрыгайлы (1452) В. занята войскамі ВКЛ. Валынская зямля ў складзе ВКЛ займала тэрыторыю ў басейне паўд. прытокаў Прыпяці: Выжаўкі, Турыі, Стахода, Стыра, Гарыні, а таксама часткова Зах. Буга. У Валынскай зямлі знаходзіліся гарады Луцк, Уладзімір, Сцепань, Чартарыйск, Ковель, Турыйск, Алыка, Берастэчка, Астрог, Корац, Звягель, Заслаў, Збараж, Вішнявец, Дубна, Клевань, Чацвяртня. У 15 ст. на В. склаліся буйныя княжацкія латыфундыі Астрожскіх, Вішнявецкіх, Чартарыйскіх, Збаражскіх, Сангушкаў. У складзе ВКЛ статус Валынскай зямлі вызначаўся ўстаўнымі граматамі (пасля 1452, у 1501, 1509, 1547). В. падзялялася на Луцкі, Уладзімірскі і Крэменецкі пав. Гал. валынскім ураднікам быў луцкі староста, які звычайна прызначаўся і маршалкам Валынскай зямлі — начальнікам узбр. сіл. Ва Уладзіміры і Крэменцы былі свае старасты (намеснікі, дзяржаўцы). Шляхта Валынскай зямлі збіралася на мясц. соймікі. У 1565—66 на аснове Валынскай зямлі створана *Валынскае ваяводства*, якое з 1569 у складзе Польскага каралеўства.

*Літ.*: Jabłonowski A. Ziemia Wołyńska w połowie XVI wieku // Źródła dziejowe. 1877. T. 6; Андрияшев А. Очерк истории Волынской земли до конца XIV ст. Киев, 1888; Батюшков П.Н. Волынь: Исторические судьбы Юго-Западного края. СПб., 1888; Филевич И. Борьба Польши и Литвы-Руси за галицко-владимирское наследие. СПб., 1890; Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]. С. 209—235; Леонтович Ф.И. Очерки истории литовско-русского права. Вып. 1. СПб., 1893. С. 202—347; Иванов П.А. Исторические судьбы Волынской земли с древнейших времен до конца XIV века. Одесса, 1895; Halecki O. Ostatnie lata Świdrygiełły i sprawa wołyńska za Kazimierza Jagiellończyka. Kraków, 1915; Його ж. Przyłączenie Podlasia, Wołynia i Kijowszczyzny do Korony w roku 1569. Kraków, 1915; Rocznik Wołyński. T. 1—7. Równe, 1930—39; Яковенко Н.М. Українська шляхта з кінця XIV до середини XVII ст.: (Волинь і Центральна Україна). Київ, 1993; Троневич П. Волинь в сутінках української історії XIV—XVI ст. Луцьк, 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**Валюміна легум** (лац. Volumina Legum, збор законаў. Другі тытул: «Prawa, konstytucye y przywileie Królestwa Polskiego, y Wilkiego Xięstwa Litewskiego, y wszystkich prowincyi należących na walnych seymach koronnych od seymu Wiślickiego roku pańskiego 1347 aż do ostatniego seymu uchwalone»), шматтомны збор законаў, соймавых пастаноў, прывілеяў і інш. заканадаўчых актаў, якія дзейнічалі на тэр. Польшчы, Беларусі, Літвы і правабярэжнай Украіны з 1347 да 1793—95. Прыватнае выданне ордэна піяраў, арганізаванае пры падтрымцы Ю.Залускага і С.Канарскага. Прызначалася для практычнай арыентацыі юрыстаў, суддзяў, паліт. дзеячаў і інш. у заканадаўчым матэрыяле. Публікаваўся на польскай і лац. мовах з загалоўкамі, без каментарыяў, у канцы тамоў прыкладзены рэестр канстытуцый і прывілеяў за адпаведны перыяд. Упершыню т. 1—6 (акты 1347—1736) выдадзены ў Варшаве ў 1732—39, т. 7—8 (акты 1764—80) — у 1782. Гэтыя 8 тамоў перавыдаў і выдаў паказальнікі да іх І.П.Агрызка ў 1859—60 у Пецярбургу. У 1889 у Кракаве выйшаў т. 9 (акты 1782—92), у 1952 у Познані — т. 10 (з матэрыяламі Гарадзенскага сойма 1793). Некат. соймавыя матэрыялы да 1526 увайшлі ў выданне О.Бальцара «Збор законаў Польшчы» («Corpus iuris Polonici», т. 3—4, 1906—10). Прадметна-тэматычныя паказальнікі (інвентар) да В. л. «Konstytucye koronne y Wielkiego Xięstwa Litewskiego od roku pańskiego 1550 do roku 1683» падрыхтаваў і апублікаваў у 1685 у Варшаве сакратар каороннай канцылярыі М.Ладоўскі (дапоўнены да 1726 Залускім, перавыдадзены ў 1733). У 1754 і 1782 выйшлі падрыхтаваныя А.Жаглiцкім і Т.Вагам дапоўненыя выданні інвентароў.

В.л. — неафіцыйнае выданне і не з'яўляецца поўным зборам законаў. Змешчаны акты, узятыя з арыгінальных крыніц і з прац асобных аўтараў. Для вывучэння гісторыі ВКЛ значную каштоўнасць маюць акты, што адносяцца да дзейнасці органаў дзярж. кіравання і ўлады, адлюстроўваюць паліт. і сац.-эканам. адносіны, як, напр.: прывілей купцам Польшчы і ВКЛ 1424; прывілей Падляшскай зямлі 1569; канстытуцыя Люблінскага сойма 1569; генеральная канфірмацыя ўсіх прывілеяў Польшчы і ВКЛ 1576; «справы ВКЛ» 1590; асобныя канстытуцыі ВКЛ (пачалі выдавацца з пач. 17 ст.), дзе зацвярджаліся ўхвалы соймаў па розных пытаннях (апрабацыя міжнар. трактатаў і дагавораў ВКЛ,

прызначэнне камісараў, арганізацыя судовых устаноў, падаткі, мытныя зборы, рамонт дарог, мастоў, ачышчэнне рэчышчаў і інш.). Шмат канкрэтных звестак па паліт., гасп. і адм. справах на Беларусі: пацвярджэнне падзелу бел. уладанняў князёў Радзівілаў (1589), вызначэнне межаў Полацкага (1590), Падляшскага і Берасцейскага (1598, 1607) ваяводстваў, дазвол на арганізацыю кірмашу ў Менску (1601), пайменны спіс шляхты Віцебскага, Навагародскага, Полацкага ваяводстваў.

*Літ.*: Беднов В.А. Православная церковь в Польше и Литве: (по Volumina Legum). Екатеринославль, 1908; Wojtkowski A. Jak się drukowały «Volumina Legum» Józafata Ohryzki // Kwartalnik historyczny. 1936. Z. 3; Kutrzeba S. Historja źródeł dawnego prawa polskiego. T. 1. Lwów etc., 1925; Historia Polski. T. 1. Warszawa, 1957.

***Георгій Галенчанка.***

**Вансявічус** (Vansevičius) Стасіс (н. 6.1.1927, в. Груожнінкай Тракайскага р-на, Літва), літоўскі юрыст, гісторык права. Д-р габілітаваны (1971), праф. (1972). Засл. юрыст Літвы (1977). Скончыў Вільнюскі ун-т (1952), дзе з 1952 выкладае, дацэнт (1958), з 1958 загадчык кафедры дзярж. права (з 1961 кафедра тэорыі і гісторыі дзяржавы і права), адначасова ў 1961—67 дэкан юрыд. факультэта. Даследуе гісторыю дзяржавы і права Літвы, тэорыю права, гісторыю прававой думкі Літвы. Аўтар прац «Земскія прывілеі Вялікага княства Літоўскага» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės privilegijos», Вільнюс, 1962), «Рэформы ў Вялікім княстве Літоўскім у сярэдзіне XVI ст.» («XVI a. vidurio reformos Lietuvos Didžiojoje Kunigaikštystėje», Вільнюс, 1971), «Гісторыя дзяржавы і права Літвы з другой паловы XVI ст. да канца XVIII ст.» («Lietuvos valstybės ir teisės istorija nuo XVI a. antrosios pusės iki XVIII a. pabaigos», Вільнюс, 1974), «Дзяржаўна-прававыя інстытуты Вялікага княства Літоўскага: (паводле Літоўскіх Статутаў 1529, 1566 і 1588 гадоў)» («Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės valstybiniai-teisiniai institutai: (pagal 1529, 1566 ir 1588 metų Lietuvos Statutus)», Вільнюс, 1981), «Феадальная літоўская дзяржаўнасць пасля Люблінскай уніі» («Feodalinės Lietuvos valstybingumas po Liublino unijos», Вільнюс, 1988), «Гісторыя дзяржавы і права Літвы» («Lietuvos valstybės ir teisės istorija», Вільнюс, 1997, з М.Максімайцісам) і інш.

*Тв.*: Lietuvos valstiečių teisinė padėtis buržuazijos valdymo metais (1919—1940 m.). Vilnius, 1968; Teisinis režimas Vilniaus krašte 1920—1939 metais. Vilnius, 1973; Miškų ūkio teisinis reguliavimas ir gyvūnijos apsauga feodalinėje Lietuvoje // Socialistinė teisė. 1974. № 4; Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės teismas // Socialistinė teisė. 1976. № 2; Teisės mokslas senajame Vilniaus universitete // Socialistinė teisė. 1977. № 2; Įžymus Lietuvos feodalinės teisės paminklas // Socialistinė teisė. 1979. № 2; Lietuvos Didžiojo Kunigaikščio ir Ponų tarybos valdžia XV—XIX a. // Teisės bruožai Lietuvoje XV—XIX a. Vilnius, 1980; Teismas ir procesas pagal 1529 metų Lietuvos Statutą // Тамжа; Lietuvos valstybingumo problema po Liublino unijos // Teisės instituta raida Lietuvoje XIV—XIX a. Vilnius, 1981; Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės atskiri valstybiniai organai po Liublino unijos // Teisė. 1983. T. 17; Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės teisės šaltiniai XVII—XVIII a. // Teisė. 1985. T. 20; Pirmasis Lietuvos teisės kodifikacijos paminklas // Teisės etiudai. 1988. T. 1; Lietuvos baudžiamoji teisė ir procesas 1919—1940 m. Vilnius, 1996; Teisės fakulteto istorija. Vilnius, 1997; Teisės teorija. Vilnius, 1998; Valstybės ir teisės teorija. Vilnius, 2000.

**Ваньковічы**, шляхецкі род герба «Ліс». Першае ўпамінанне пра род адносіцца да 1499. Мелі маёнткі ў Навагародскім пав. і каля Вілейкі. Былі праваслаўнымі, з пач. 17 ст. каталікамі. Найб. вядомыя:

Юхна, дваранін каралеўскі (1-я пал. 16 ст.); Пётр, падкаморы віленскі; Ян, харужы менскі; Адам, староста красасельскі, дэпутат Трыбунала ВКЛ (1639); Стафан, суддзя гродскі вількамірскі; Пётр, войскі менскі; Станіслаў, падчашы аршанскі; Ян, войскі і падстараста судовы вількамірскі; Ян, падстолі менскі; Уладзіслаў, войскі, суддзя земскі менскі, дэпутат Трыбунала ВКЛ (1684, 1688); Тэадор Антоні (?—пасля 1709), стольнік і падстараста судовы менскі, староста падусвяцкі, кашталян менскі (1709), дэпутат Трыбунала ВКЛ (1682, 1686, 1691, 1701, 1709); Станіслаў, падчашы смаленскі; Антоні, чашнік вількамірскі; Уладзіслаў Тадэвуш, мечнік менскі, староста рушоўскі, соймавы пасол, дэпутат Трыбунала ВКЛ (1711, 1717, 1722, 1726); Станіслаў, падчашы аршанскі; Тамаш, чашнік менскі; Матэвуш, суддзя земскі менскі (1778); Тадэвуш, мечнік менскі; Юзаф, пісар гродскі менскі (1788), маршалак шляхты Менскага пав. (1795—1800, 1802—08).

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Вапоўскі** (Wapowski) Бярнард (каля 1450, Радахонцы каля г. Перамышль—21.11.1535), гісторык, картограф, юрыст, дыпламат, астролаг, географ. Д-р кананічнага права (1505). Ксёндз. Паходзіў са шляхецкага роду. Служыў у войску. У 1493 паступіў у Кракаўскі ун-т, які скончыў як «doctor decretorum». Вучыўся ў Балонскім ун-це (1503—05). З 1506 камердынер рымскага папы Юлія II. У Рыме ўдзельнічаў у выданні «Геаграфіі» Пталамея, нанава апрацаваў карту Цэнтр. Еўропы. У гэты час напісаў некалькі гіст.-літ. твораў пра ваен. поспехі Жыгімонта I. У 1515 вярнуўся ў Польшчу, дзе заняў пасаду каралеўскага сакратара. У 1526 апублікаваў карту Польшчы і зах. часткі ВКЛ, а таксама карту Усх. Еўропы ў 2 частках. Паводле загаду Жыгімонта I у 1533 пачаў працу над хронікай, але не паспеў яе скончыць. Незавершаны лац. рукапіс не быў выдадзены і знік пры нявысветленых абставінах. Паводле меркаванняў некат. польскіх гісторыкаў, хроніку выкраў М.*Кромер*, які выкарыстаў яе для стварэння асабістай хронікі, а потым знішчыў. Аднак да сярэдзіны 16 ст. твор В. ведалі польскія храністы. М.*Бельскі* адзначаў, што ўключыў у сваю працу значную частку хронікі В. Фрагмент хронікі В. з 1380 да 1535 выдадзены Т.Плазай разам з хронікай Кромера (Bernardi Vapovii fragmentum Sigismundi Seniores Regis Poloniae res gestas, Cromeri descriptione continuans nunc primum i lucem editum. Coloniae Agrippina, 1589). У сярэдзіне 19 ст. польскі гісторык М.Маліноўскі пераклаў на польскую мову частку хронікі, якая ахоплівала падзеі з 1380 да 1463, і выдаў пад назвай «Гісторыя Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага» («Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego», т. 1—3, Вільня, 1847—48). Пераклад зроблены з т.зв. «рукапісу Бавароўскага» (ад імя яго былога ўладальніка). Астатняя частка хронікі В. засталася неперакладзенай і выдадзена ў лац. арыгінале Ю.Шуйскім (Scriptores Rerum Polonicarum. T. 2. Cracoviae, 1874). Гэтыя публікацыі маюць храналагічныя і тэксталагічныя разыходжанні, што звязана, відаць, з наяўнасцю некалькіх спісаў хронікі. Зводнай публікацыі і поўнага перакладу хронікі да нашага часу няма. Праца В. — важная крыніца па гісторыі Польшчы, ВКЛ, Русі, Венгрыі, Чэхіі, Свяшчэннай Рымскай імперыі. Кампілятыўнасць і

ступень запазычанняў храніста нераўназначныя і зводзяцца да розных крыніц. Выклад падзей 1380—1480 заснаваны на «Аналах» Я.*Длугаша*, 1480—1506 — на хроніцы *Мацея з Мехава*, 1506—16 — на хроніцы Ё.Л.*Дэцыя*, 1516—28 — на хроніцы Э.Венгра. У выкладзе падзей 1528—35 адсутнічае кампілятыўнасць, ён заснаваны на дакументах каралеўскай канцылярыі, дыпламатычнай перапісцы, сведчаннях відавочцаў і ўдзельнікаў падзей, асабістых уражаннях. Гэтая частка хронікі найб. каштоўная. Гал. ідэя твора В. — гіст. абгрунтаванне уніі паміж Каронай і ВКЛ, у выніку чаго ўсе падзеі разглядаюцца праз прызму польска-літоўскага дзярж. саюзу. Хроніка таксама змяшчае каштоўныя звесткі па геаграфіі, этнаграфіі, гіст. тапаніміцы, якія маюць самастойнае навук. значэнне.

*Літ.*: L u k a s S. Rozbiór podługoszowej części Kroniki Bernarda Wapowskiego. Kraków, 1880; B e ń k o w s k a B. Z kręgu Miechowity i Wapowskiego // Studia i materiały z dzejów nauki w Polsce. Ser. A. Warszawa, 1966; Я е ж. Kronika Emeryka Węgra (1516—1531) jako źródło Wapowskiego. Wrocław, 1969; M o d e l s k a - S t r z e l e c k a B. Bernard Wapowski // Krakowski krąg Mikołaja Kopernika. Kraków, 1973; М и х а й л о в с к а я Л.Л. Вклад польского хрониста XVI в. Бернарда Ваповского в историографию Великого княжества Литовского // Научные труды высших учебных заведений Литовской ССР. История. Вильнюс, 1981. Вып. 1; Я е ж. Ян Длугош и Бернард Ваповский // Zeszyty naukowe Uniwersitetu Jagiellońskiego. Kraków, 1985; Я е ж. Хроника Бернарда Ваповского как исторический источник // Гістарычныя крыніцы: праблемы класіфікацыі, вывучэння і выкладання. Мн., 1998.

***Людміла Міхайлоўская.***

**Варакаўскас** (Varakauskas) Рокас (16.8.1922, в. Галінтэнай Алітускага р-на, Літва—13.10.1975), літоўскі гісторык. Канд. гіст. навук (1959). Скончыў Вільнюскі пед. ін-т (1950), дзе пасля выкладаў, дацэнт (1965). Даследаваў гісторыю Літвы 13—16 ст., дыпламатычныя сувязі ВКЛ, барацьбу літоўцаў з крыжацкай агрэсіяй. Аўтар кніг «Абарона Пілена» («Pilėnų gynimas», Вільнюс, 1960), «Гераічны Пілен» («Didvyriškieji Pilėnai», Вільнюс, 1969), «Адносіны Літвы і Лівоніі ў XIII—XVI стагоддзях» («Lietuvos ir Livonijos santykiai XIII—XVI a.», Вільнюс, 1982).

*Тв.*: Vokiečiu feodalų agresija į Rytinį Pabaltijį ir lietuvių kova su ja XIII a. I ketvirtyje // Vilniaus valstybinio pedagoginio instituto mokslo darbai. Vilnius, 1957. T. 3; Lietuvių kova su vokiškaisiais agresoriais Mindaugo valdymo laikotarpiu (1236—1263) // Там жа. 1958. T. 4; Ledo mūšis ties Karūzu 1270 m. // Istorija. Vilnius, 1962. T. 3; Kautynės ties Ašerade (1279 v.) // Там жа. 1963. T. 4; Lietuvos valstybės susidarymo klausimu // Т а м ж а. 1969. Ñ. 10; Lietuvos valstybės žlugimas // Там жа. 1972. T. 13.

**Babakomski** 

**Варакомскі** Адам, пісьменнік 1-й пал. 18 ст. Жыў, відаць, у Полацку. Аўтар паэмы на польскай мове «Гісторыя пра благаслаўлёных мучанікаў» (1738, рукапіс захоўваецца ў архіве С.-Пецярбургскага філіяла Ін-та рас. гісторыі Рас. АН). У творы апісана знаходжанне летам 1705 у Полацку Пятра І, яго расправа над грэка-каталіцкім (уніяцкім) духавенствам. Аўтар асуджае цара за жорсткасць, аднак аддае належнае яго мудрасці, імкненню пашыраць у Рас. дзяржаве асвету. Пятра І В. параўнаў з біблейскім царом Давідам. У мове паэмы ёсць беларусізмы.

***Адам Мальдзіс.***

**Варанецкія**, княжацкі род герба «Карыбут». Нашчадкі Карыбута Альгердавіча, галіна князёў *Збаражскіх*. Князь Фёдар Васілевіч Збаражскі меў сыноў Аляксандра — родапачынальніка *Парыцкіх*, а таксама Юрыя і Войну, ад якіх пайшлі 2 лініі В. Прозвішча ад маёнтка Варончын у Луцкім пав. Найб. вядомыя:

Ю р ы й Ф ё д а р а в і ч (?—пасля 1577), сын Фёдара Васілевіча. Тытулаваўся князем Збаражскім і Варанецкім. Пры падзеле спадчыны ў 1529 атрымаў разам з братам Войнам вотчынныя маёнткі Варончын і Трысцен на Валыні. Пасол на элекцыйны сойм 1573. Меў сыноў Якуба, Андрэя, Аляксандра, Януша, Міхала.

В о й н а Ф ё д а р а в і ч (?—каля 1564), сын Фёдара Васілевіча. Тытулаваўся князем Збаражскім, Варанецкім, Трысценскім. Меў сыноў Львa, Станіслава і Мацея.

Я к у б Ю р ' е в і ч (?—1598), сын Юрыя Фёдаравіча. У 1568 каралеўскі сакратар і дваранін. У 1570 пробашч геранёнскі, плябан ковенскі, адначасова з 1578 пробашч ловіцкі і скерневіцкі (Польшча), з 1594 плябан кейданскі. У 1578 прызначаны Жыгімонтам Аўгустам жамойцкім біскупам, а ў 1585 Стафанам Баторыем — кіеўскім біскупам, але абодва разы не быў зацверджаны (у 1585—88 тытулаваўся біскупам-намінатам кіеўскім).

А н д р э й (?—каля 1580), сын Юрыя Фёдаравіча. У 1577 каралеўскі сакратар, у 1578 канонік лянчыцкі (Польшча). Вучыўся ў Рыме.

А л я к с а н д р (?—пасля 1582), сын Юрыя Фёдаравіча. У 1582 плябан дудскі.

М і х а л (?—пасля 1582), сын Юрыя Фёдаравіча. Валодаў маёнткамі ў Чэрскай зямлі (Мазовія). Жонка — былая каханка Жыгімонта Аўгуста Барбара Гіжанка. Меў шматлікіх нашчадкаў.

Я н у ш Ю р ' е в і ч (?—пасля 1603), сын Юрыя Фёдаравіча. Пробашч ловіцкі, дэкан гнезненскі, каралеўскі падскарбі. Валодаў Варончынам, Катовай Воляй і Міжлессем у Луцкім пав.

Л е ў (?—пасля 1595), сын Войны Фёдаравіча. Падстараста пінскі ў 1582—86, суддзя гродскі крэменецкі з 1591; пасол на элекцыйны сойм 1573. Меў маёнткі ў Луцкім пав.

*Літ.*: Б а у м г а р т е н Н.А. Происхождение князей Вишневецких, Збаражских и Воронецких // Летопись Историко-родословного общества в Москве. 1910. Вып. 4.

***Валерый Пазднякоў.***

**Варатынск** (рус. Воротынск, цяпер пасёлак у Калужскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад, цэнтр *Варатынскага княства*, на правым беразе р. Выса (прыток Акі). Упершыню ўпамінаецца ў летапісе пад 1155 як адзін з гарадоў Чарнігаўскага княства. З сярэдзіны 13 ст. ў складзе *Навасільскага княства*. З канца 14 ст. (каля 1396) у залежнасці ад ВКЛ. З пач. 15 ст. цэнтр васальнага ВКЛ Варатынскага княства. У 1494 перайшоў пад уладу Масквы. Раскопкі на месцы сучаснага Варатынска не знайшлі слоя 12 ст., што выклікала дыскусію аб месцазнаходжанні горада ў ранні перыяд яго існавання. Дзякуючы ўпамінанню ў летапісе пад 1480 двух Варатынскаў, старога і новага, была зроблена выснова аб пераносе горада, які лакалізавалі на гарадзішчах вакол в. Варатынцава на р. Зуша (прыток Акі). Новы В. быў заснаваны ў канцы 14 ст. пасля спусташэння старога Варатынска цемнікам Мамаем.

*Літ*: Н и к о л ь с к а я Т.Н. Воротынск // Древняя Русь и славяне. М., 1978; Б а т а л и н А.М. Город Воротынск и князья Воротынские в истории России. Калуга, 1995.

***Віктар Цемушаў.***

**Варатынскае княства,** феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе. Цэнтр — г. *Варатынск*. Утварылася ў выніку драблення *Навасільскага княства* ў пач. 15 ст. на Адоеўскае, Бялёўскае і Варатынскае. Удзельныя князі па-ранейшаму насілі агульнае родавае прозвішча



Навасільскіх. Старэйшы ў родзе князь тытулаваўся навасільскім і адоеўскім. Варатынскія князі вялі барацьбу за старшынство сярод навасільскіх князёў з князямі адоеўскімі. Папераменна займаючы лідзіруючае становішча, варатынскія і адоеўскія заключалі дагаворы з вял. князямі ВКЛ. Вядомы пагадненні 1442 і 1483 варатынскіх і 1459 адоеўскіх. Да канца 15 ст. супрацьстаянне 2 ліній навасільскіх князёў прыняло адкрытыя формы і перарасло ў варожасць. Варатынск у складзе Навасільскага княства з канца 14 ст. знаходзіўся ў залежнасці ад ВКЛ. Аднак афіцыйна князі варатынскія прысягнулі Вітаўту толькі ў 1427 у час паездкі апошняга ў раён вярхоўяў Акі, у Разанскае і Пронскае княствы. Варатынскія князі прысутнічалі на Луцкім з'ездзе 1429 і Віленскім з'ездзе 1430. У адрозненне ад іншых Вярхоўскіх княстваў В.к. захавала адносную самастойнасць, а варатынскія князі не ператварыліся ў звычайных вотчыннікаў і захавалі да канца 15 ст. княжацкія правы. У выніку шматлікіх падараванняў гаспадароў ВКЛ уладанні варатынскіх князёў значна павялічыліся і цягнуліся шырокай паласой уздоўж Акі і яе прытока Угры, ствараючы першую лінію абароны супраць Вял. княства Маскоўскага. У 1487 пачаліся напады маскоўскіх служылых людзей на ўладанні варатынскіх князёў. У 1489 Варатынск разбураны, а яго насельніцтва выведзена ў палон (7000 чал.). Варатынскія князі паступова (1487, 1489, 1492) пераходзілі на бок Масквы. У 1492—93 варатынскія і іншыя вярхоўскія князі ўжо з маскоўскага боку рабілі напады на верхняокскія гарады (Масальск, Сярпейск, Мезецк і інш.), што засталіся вернымі вял. князю ВКЛ. Паводле дагавору 1494 ВКЛ адмовілася ад правоў на вотчыны варатынскіх князёў. Аднак частка іх уладанняў (раней падараваных ім) засталася ў складзе ВКЛ (Залідаў, Бышкавічы, Апакаў і інш.). Пасля вайны 1500—03 уся тэр. Вярхоўскіх княстваў увайшла ў склад Рас. дзяржавы. Гал. абавязкам варатынскіх князёў стала абарона раёна верхняй Акі ад набегаў крымскіх татараў. Удзел Варатынскіх канчаткова скасаваны ў 1562 пры цару Іване IV.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. М., 1982; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории. XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Баталин А.М. Город Воротынск и князья Воротынские в истории России. Калуга, 1995; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. [2 изд.] М., 2001.

***Віктар Цемушаў.***

**Варатынскія**, княжацкі род у ВКЛ і Расіі. Вядуць паходжанне ад чарнігаўскай галіны Рурыкавічаў. Родапачынальнік — Леў Раманавіч, сын Рамана Сямёнавіча Навасільскага (памёр да 1427). Прозвішча ўтворана ад родавага ўладання — г. *Варатынск*. Акрамя тэр. свайго княства (вотчыны) В. валодалі вял. масівам зямель, падараваных вял. князямі літоўскімі Казімірам IV і Аляксандрам (гарады Масальск, Недаходаў, Сярпейск, Апокаў, Лучын і інш., шэраг валасцей). З канца 15 ст. прадстаўнікі роду пераходзілі на службу ў Маскву, дзе занялі прывілеяванае становішча. Найб. вядомыя:

Фёдар Львовіч (?—пасля 1480), сын Льва Раманавіча. Жанаты з дачкой кн. Карыбута Марыяй, жыў у Вільні. З 1427 на службе ў вял. князя літоўскага Вітаўта. 20.2.1442 як князь навасільскі і адоеўскі заключыў дагавор з Казімірам IV ад васалітэце ад імя ўсіх князёў Навасільскіх. З 1448 называецца па свайму родаваму ўладанню князем Варатынскім. У 1448 быў пасрэднікам свайго зяця, мажайскага кн. Івана Андрэевіча, калі той звярнуўся да Казіміра IV з просьбай пасадзейнічаць у заняцці маскоўскага стала. У лют. 1448 яму падараваны смаленскія воласці Гарадзечна, Кавылна, Дзямяна і інш., а ў сак. 1455 Казімір IV пацвердзіў іх яму і яго дзецям «у вотчину». Дзякуючы шматлікім падараванням уладанні Фёдара Львовіча значна павялічылася і цягнулася шырокай паласой уздоўж левага берага Акі і па р. Угра. Яму таксама аддадзены занятыя ВКЛ у 1447 Казельск, а ў 1455 Перамышль.

Дзмітрый Фёдаравіч (?—пасля 1489), сын Фёдара Львовіча. Быў жанаты з Ганнай Канстанцінаўнай Бабічавай. У снеж. 1489 перайшоў на бок Масквы, пры гэтым захапіў зямельныя ўладанні і скарбніцу свайго брата Сямёна. Валодаў трацінай Варатынска і шэрагам валасцей паміж Болвай (прыток Дзясны) і Акой.

Сямён Фёдаравіч (?—пасля 1492), сын Фёдара Львовіча. Акрамя атрыманых у спадчыну ад бацькі валасцей і траціны Варатынска атрымаў ад Казіміра IV воласць Мошчын, у выніку чаго сканцэнтраваў у сваіх руках амаль усё правабярэжжа Угры. У 1492 перайшоў на бок Масквы з гарадамі Сярпейск і Мезецк. У жн. 1492 ён і яго пляменнік Іван Міхайлавіч спалілі Масальск і паланілі князёў Масальскіх.

Іван Міхайлавіч (?—1534), сын Міхаіла Фёдаравіча. У 1487 перайшоў на бок Масквы. У 1492 разам з дзядзькам Сямёнам Фёдаравічам напаў на Масальск. У 1507 з кн. У.С.Адоеўскім камандаваў войскамі, што разбілі крымскіх татараў на р. Ака. У 1512 і 1513 удзельнічаў у аблозе Смаленска, а ў 1517 зноў разбіў татараў пад Тулай. З 1531 1-ы ваявода вял. палка. У яго ўдзел уваходзілі Перамышль, траціна Варатынска і долі ў Навасілі і Адоеве. У 1534 абвінавачаны ў змове і сасланы на Белавозера, дзе і памёр. Яго ўладанні дасталіся сынам Уладзіміру (памёр у 1556 бяздзетным), Міхаілу і Аляксандру, якія ў 1562 «за изменные дела» сасланы, але неўзабаве паміланы. Удзел князёў В. адноўлены не быў. Міхаіл Іванавіч праславіўся перамогай у 1572 над крымскім ханам Дэўлет-Гірэем. Паводле духоўнай граматы 1572 цара Івана IV Грознага, Міхаілу Іванавічу належалі яго старыя родавыя ўладанні. У 1573 ён арыштаваны і пакараны смерцю.

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого литовского статута. М., 1892; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Зимин А.А. Формирование боярской аристократии в России во второй половине XV—первой трети XVI в. М., 1988; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории. XIII — середина XVI вв.). Тула, 1993; Баталин А.М. Город Воротынск и князья Воротынские в истории России. Калуга, 1995; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XVI—первой трети XVI в. М., 1995; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. [2 изд.] М., 2001.

***Віктар Цемушаў.***

**Варні** (літ. Варняй, Varniai, цяпер горад у Цяльшайскім р-не., Літоўская Рэспубліка), горад у Жамойцкім княстве, на р. Варняле. У 14 ст. на правым беразе ракі існавала мяст. Меднікі. У 1389 жамойты разбілі пад Меднікамі войска крыжакоў. У 15 ст. на левым беразе ракі заснаваны В. У 1416 тут пабудаваны касцёл, у 1469 адкрыта прыходская школа. У 1417 Меднікам даараваны правы горада і ўзведзены кафедральны касцёл, яны сталі цэнтрам *Жамойцкай рымска-каталіцкай епархіі*. У 16 ст. за абодвума паселішчамі, якія аб'ядналіся ў адзін горад, замацавалася назва В. З 1623 дзейнічала *Варніская духоўная семінарыя*. 14.3.1635 горад атрымаў магдэбургскае права. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Варніская духоўная семінарыя**, навучальная ўстанова для падрыхтоўкі святароў для Жамойцкага біскупства. Існавала ў 1623—1864. Заснавана ў Варнях біскупам М.Пацам. Выкладалі езуіты. З 1629 знаходзілася ў Крожах. З 1742 зноў у Варнях, аддадзена піярам. З 1762 кіравалася езуітамі да скасавання ордэна. У 1763—69 рэктар семінарыі І.Доўгірд, у 1769—74 — Т.Рагоўскі. Пасля апекавалася місіянерамі-лазарыстамі.

**Варняй** (Varniai), горад у Літоўскай Рэспубліцы, у Цяльшайскім р-не, гл. *Варні*.



**Варні**. Кафедральны касцёл Пятра і Паўла. 1680–91.

**варта начная**, старожа, павіннасць сялян ВКЛ і Беларусі ў 16—19 ст. Заключалася ў адбыванні начных дзяжурстваў на панскім фальварку. На В.н. сяляне выходзілі па чарзе, часам яна магла замяняцца грашовым эквівалентам. Напр., сяляне в. Косцэнева Слонімскага пав., якой валодаў І.Адынец, у 1578 за В.н. сплачвалі 12 грошаў.

*Літ.*: Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991. С. 35.

***Павел Лойка.***

**Вартберг** Герман, гл. *Герман з Вартберга*.

**Варута**, адзіны вядомы замак *Міндоўга*. Упомнены ў Іпацьеўскім летапісе пад 1251 пры апісанні вайны паміж Міндоўгам і *Таўцівілам*. У пач. 1251 Міндоўгу ўдалося схіліць на свой бок магістра Лівонскага ордэна Андрэя фон Штырлянда, ад якога прыняў хрышчэнне. Таўцівіл у паўн. Жамойці сабраў усе свае войскі (жамойты, яцвягі, русіны і полаўцы Данілы Раманавіча) і рушыў на Міндоўга. Міндоўг, у якога пасля хрышчэння застаўся атрад рыцараў Лівонскага ордэна, зачыніўся ў замку В., які летам 1251 узялі ў аблогу войскі Таўцівіла. Пасля начной вылазкі атрада на чале са шваграм Міндоўга аблога замка была аслаблена. Раніцай у бой уступілі нямецкія арбалетчыкі, якія разбілі войска Таўцівіла. Баявыя дзеянні былі перанесены ў Жамойць. Пра месца знаходжання В. ў л-ры існуе не менш за 17 версій. Першую лакалізацыю В. прапанаваў Т.*Нарбут* (1838), які атаясаміў яе з мяст. Гарадзішча (цяпер Баранавіцкі р-н). Ю.Ляткоўскі (1892) абвясціў В. сталіцай Міндоўга і атаясаміў яе з Варнянамі (Астравецкі р-н). Пад уплывам яго працы з'явілася шмат новых версій лакалізацыі В., у якіх яна неабгрунтавана лічылася сталіцай Літвы 13 ст. В. шукалі ў ваколіцах г. Варэны (Г.Лаўмянскі, 1932), у Кернаве (Г.Пашкевіч, 1933), у ваколіцах г. Варняй (К.А.Сцепанайціс, 1937), у Вільнюсе (Р.Батура, 1966), у Карэлічах (М.Ермаловіч, 1989) і інш. У цяперашні час найб. разгорнутая аргументацыя на карысць лакалізацыі В. на гарадзішчы Шаймінішкеляй каля г. Анікшчай. Гарадзішча з пляцоўкай у 3 тыс. $м^2$ умацавана 2 равамі і валамі, з 2 умацаванымі падоламі і селішчам, знаходзіцца паміж рэкамі Валупіс і Вараліс і, паводле некат. звестак, звалася мясц. жыхарамі гарой Варутэ; у выніку археал. раскопак Г.Забелы 1990—2004 ускрыта ўся пляцоўка гарадзішча.

*Літ.*: Zabiela G. Kur stovėjo Vorutos pilis? // Lietuvos istorijos metraštis. 1991 metai. Vilnius, 1993; Baranauskas T., Zabiela G. Vorutos pilis. Vilnius, 2001; Забела Г. Городище Шяйминишкеляй — предполагаемое место замка Ворута // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002.

***Томас Баранаўскас.***

**Варшаўская канфедэрацыя 1573**, канвакацыйны сойм Рэчы Паспалітай, які працаваў у Варшаве 6—28.1.1573. Скліканы пасля смерці караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста для падрыхтоўкі абрання новага манарха Рэчы Паспалітай. Абвясціў сябе канфедэрацыяй шляхты. Скліканы ва ўмовах значнага пашырэння ў Рэчы Паспалітай рэфармацыйных плыняў, сойм пад націскам пратэстантаў разгледзеў пытанне пра захаванне рэліг. міру ў краіне, калі асн. прэтэндэнтам на карону выступаў каталік *Генрык* Валезы, вядомы ўдзелам у расправе над пратэстантамі ў Францыі. На сойме была створана камісія з 15 чал. на чале з куяўскім біскупам С.Карнкоўскім, якая падрыхтавала праект пастановы пра ўмовы элекцыі. 28.1.1573 В.к. прыняла адпаведны акт і перадала яго на разгляд павятовых соймікаў. Акт В.к. абвяшчаў пра захаванне ўнутр. міру і адзінства Рэчы Паспалітай, супольнае абранне



Акт **Варшаўскай канфедэрацыі 1573**.

манарха шляхтай, патрабаваў ад будучага караля прысягі на тое, што ён будзе падтрымліваць мір паміж падданымі розных хрысціянскіх веравучэнняў. Шляхта таксама абавязвалася захоўваць рэліг. мір, «у сувязі з рознасцю веры і адрознення ў цэрквах крыві не праліваць і не караць». Абвяшчалася рэліг. вяршэнства паноў над сваімі падданымі. Адначасова акт В.к. забяспечваў права на заняцце касцельных пасад арцыбіскупаў, біскупаў і інш. за духоўнымі асобамі каталіцкага веравызнання. Былі вызначаны і некат. нормы дзярж. кіравання ў час міжкаралеўя. Большасць павятовых соймікаў, скліканых на 2.3.1573, падтрымала акт В.к. На элекцыйным сойме ў крас.—маі 1573 у Варшаве акт В.к. быў яшчэ раз ухвалены і перапісаны на пергаменце (пад старой датай). Па патрабаванні праваслаўных у яго тэкст унесена дапаўненне, што маёмасць правасл. царквы (а значыць, і пасады мітрапаліта, епіскапаў, ігуменаў і інш.) павінна давацца ў кіраванне правасл. асобам. У склад *Генрыкавых артыкулаў* быў уключаны пункт пра зацвярджэнне Генрыкам Валезам акта В.к. Аднак пры каранацыі Генрык адмовіўся падпісаць акт. У 1576 яго зацвердзіў новы кароль Стафан Баторый. Ад імя ВКЛ 1-ы акт В.к. падпісалі падканцлер і кашталян троцкі А.Валовіч, кашталян віцебскі П.Пац, 2-і акт — канцлер М.Радзівіл Руды, маршалак вялікі і староста жамойцкі Я.Г.Хадкевіч і інш. У перакладзе на бел. мову акт В.к. быў цалкам уключаны ў *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* (раздз. 3, арт. 3). Яго палажэнні заклалі юрыд. асновы палітыкі рэліг. талерантнасці ў ВКЛ. Аднак лаканічнасць дакумента, асаблівасці яго прыняцця, няпэўнасць у дзейнасці яго палажэнняў у адносінах да нешляхецкіх саслоўяў спараджалі спробы ваяўнічых колаў разглядаць акт як дакумент абмежаванага дзеяння.

*Літ.*: Ptaszycki S. Konfederacja Warszawska r. 1573 w trzecim Statucie Litewskim // Księga pamiątkowa ku uczczeniu czterechsetnej rocznicy wydania Pierwszego Statutu Litewskiego. Wilno, 1935; Korolko M. Klejnot swobodnego sumienia. Warszawa, 1974; Korolko M., Tazbir J. Konfederacja Warszawska 1573 r. Warszawa, 1980.

***Валерый Пазднякоў.***

**васалітэт** (ад позналац. vassalus васал, vassus слуга), сістэма адносін асабістай залежнасці адных феадалаў (васалаў) ад іншых (сеньёраў або сюзерэнаў). Упершыню склаўся ў позняй Франкскай імперыі пры Карле Вялікім [768—814], далейшае развіццё атрымаў у Германіі, Францыі, Англіі. На Беларусі ў класічным варыянце В. не аформіўся, спец. тэрміна для яго абазначэння не было, аднак сістэма васальнай залежнасці існавала. У часы Кіеўскай Русі князі ўступалі паміж сабой у В., калі адзін з іх пагаджаўся лічыцца «сынам» другога (пры раўнапраўных адносінах князі звалі адзін аднаго «братамі»). *Баяры* з'яўляліся васаламі таго князя, якому служылі і ад якога за службу мелі маёнткі. З 11—12 ст. з'явіліся асабістыя дружыны найбуйнейшых баяр з васалаў 3-га ўзроўню. Пагадненні паміж князямі часам прадугледжвалі права баяр мяняць сюзерэна, не трацячы вотчыны, якая заставалася ва ўладаннях іншага князя. У ВКЛ у 13—14 ст. сістэма кіравання асобнымі землямі (княствамі) таксама будавалася на васальнай залежнасці князёў ад вял. князя ВКЛ. Напр., васаламі вял. князя *Альгерда* былі яго сыны і іншыя *Гедзімінавічы*, пасаджаныя на княжанне ў княствах Русі, у т.л. і на Беларусі. Уключэнне некат. зямель у ВКЛ адбывалася, відаць, таксама шляхам васальнай прысягі іх уладальнікаў вял. князю ВКЛ. Адначасова кожны князь меў васалаў з ліку баяр, якія звычайна на граматах свайго сюзерэна выступаюць у якасці сведкаў. Некаторыя баяры з'яўляліся васаламі непасрэдна вял. князя ВКЛ. У канцы 14—15 ст. юрыд. правы непасрэдных васалаў вял. князя ВКЛ (князёў, паноў і баяр-шляхты) былі замацаваны ў шэрагу прывілеяў (напр., *прывілеем 1434* вял. князя Жыгімонта Кейстутавіча). *Шляхта* атрымала права прадаваць, мяняць, дарыць свае ўладанні. Васальныя адносіны гэтай групы феадалаў з вял. князем ВКЛ звяляся да абавязку ваен. службы і права падлягаць суду вял. князя ВКЛ або яго намеснікаў. Правы княжацкіх і панскіх васалаў, як і раней, абумоўліваліся іх асабістым пагадненнем з сюзерэнам. У 16 ст. саслоўе шляхты канчаткова аформілася. Усе васалы вял. князя ВКЛ фармальна атрымалі роўныя правы, што было замацавана *Статутам Вялікага княства Літоўскага 1566*. Аднак існавала і двайная васальная залежнасць, пры якой шляхціц дадаткова атрымліваў зямельныя ўладанні ад іншага феадала (звычайна князя або пана) на ўмовах асабістай службы. Баяры, якія мелі маёнткі ў прыватных уладаннях, пераважна ў латыфундыях магнатаў, засталіся васаламі 2-га ўзроўню.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Васіла** Андрэй, гл. *Андрэй*.

**Васілевіч** Феадосій, гл. *Феадосій*.

**Васілішкаўская воласць**, Васілішкаўскае харужаства, судовая і ваенна-мабілізацыйная акруга ВКЛ у 15—1-й пал. 16 ст. Цэнтр — в. Васілішкі (цяпер у Шчучынскім р-не). Адносілася да *Троцкага ваяводства*. Часам згадваецца пад назвай «павет» або «дзяржава». На пасадзе намесніка (дзяржаўцы) вядомы Я.Сцецкавіч (1499), Я.Радзівіл (1500—01), В.Л.Глінскі (1501—04), С.Кішка (1505—06), Я.Шчыт (1507—15), Я.Кунцэвіч (1518—23), Я.М.Радзівіл (1523—1542), К.Кунцэвіч (1546), М.Радзівіл (1546—54). Падараванні невял. маёнткаў з яе складу адбываліся ўжо на пачатку панавання вял. кн. Казіміра ў 1440-я г. і працягваліся да 1550-х г. У 16 ст. воласць ахоплівала супольныя баярскія маёнткі ў Ваверцы, Вінчаўцах, Глыбокім, Дзітве, Забалацці, Лебядзе, Лядах, Нявішы, Роўбічах і інш. больш дробных сёлах, а таксама паселішчы дзярж. сялян, што захаваліся ў асноўным у вярхоўях рэк



Нявішы і Котры. У 1528 шляхецкае апалчэнне В.в. налічвала 198 коннікаў (з іх 13 былі дробнымі шляхціцамі, якія ішлі ў войска асабіста, без слуг). Пад час адм. рэформы 1565—66 В.в. уключана ў Лідскі пав. Віленскага ваяводства. Паводле попіса 1567 былая Васілішкаўская харугва адзначана ў складзе лідскага апалчэння, яна налічвала 161 конніка і 5 пешых шляхціцаў. Апошнім яе харужым быў баярын Мікалай Янавіч з Забалацця. Дзярж. паселішчы В.в. ўтварылі ў далейшым невял. Васілішкаўскае стараства, а ўладальнікі баярскіх маёнткаў уліліся ў шляхту Лідскага павета.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Васілішкаўскі кляштар дамініканцаў**. Засн. ў 1658 у в. Васілішкі (цяпер Шчучынскі раён) суддзёй земскім лідскім М.Лімантам. У 1769 пры кляштары пабудаваны ў стылі позняга барока касцёл Яна Хрысціцеля, які размяшчаўся ўнутры двара (манастырскія будынкі не захаваліся). У 1832 кляштар зачынены, касцёл перароблены пад правасл. царкву, з 1919 зноў касцёл. Касцёл — мураваная 3-нефавая базіліка пад 2-схільным дахам. Гал. фасад фланкіраваны 3-яруснымі вежамі з паўцыркульным шчытом паміж імі. Пластыку ствараюць увагнутасці і акругласці вежавых граняў, слаістыя лапаткі, пілястры з валютамі, цягі і карнізы, прамавугольныя філёнгі. У інтэр'еры пластычна вырашаныя 7 алтароў, выкананыя ў стылі ракако. Касцёл першапачаткова меў скляпеністае перакрыцце (заменена простай драўлянай столлю). Перад касцёлам мураваная 3-арачная брама.

**Васіль**, князь менскі ў 1-й пал. 14 ст. Упамінаецца адзін раз у Наўгародскім 1-м летапісе пад 1326: «Того же лета приехаша послы из Литвы: брат Гедиминовъ князя Литовського Воини Полотськыи, Василии Меньскыи князь, Федор Святъславич». Гэта паведамленне — першае сведчанне таго, што ў той час Менскае княства ўжо было ў складзе ВКЛ. Пра паходжанне В. звестак не захавалася, гісторыкі лічаць яго або Рурыкавічам, або прадстаўніком літ. княжацкай дынастыі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Васіль** Лупу (?—1661), гаспадар Малдовы [1634—53]. Па паходжанні албанец. Рабіў захады па аднаўленні самастойнасці Малдоўскага княства ад Асманскай імперыі, развіцці эканомікі і культуры. Падтрымліваў сталыя кантакты з кіеўскім мітрапалітам *Пятром* Магілам, з яго дапамогай у 1640 адкрыў у Ясах Славяна-грэка-лацінскую акадэмію, у якой працавалі і выхадцы з Беларусі (*Ігнацій* Іяўлевіч, С.*Собаль* і інш.). У 1643 па яго ініцыятыве друкар з Вільні С.*Рагаля* арганізаваў першую ў Малдове друкарню. У 1645 пры пасрэдніцтве Магілы і трансільванскага кн. Дзьёрдзя І Ракацы быў заключаны шлюб Я.*Радзівіла*, галавы кальвіністаў Рэчы Паспалітай і «сепаратысцкай» партыі ў ВКЛ, з Марыяй, дачкой В. Мітрапаліт Пётр Магіла асабіста здзейсніў правасл. абрад вянчання, гэтай падзеі было прысвечана некалькі друкаваных твораў, паколькі меркавалася, што шлюб паспрыяе ўмацаванню саюзу паміж праваслаўнымі, кальвіністамі і інш. дысідэнтамі Рэчы Паспалітай. Радзівіл разлічваў выкарыстаць саюз з Малдовай і Трансільваніяй для правядзення незалежнай знешняй палітыкі ў інтарэсах ВКЛ, у 1645—46 ён двойчы асабіста наведаў В. ў Малдове. У поўнай меры планы Радзівіла не былі рэалізаваныя, але саюз з В. адыграў пэўную ролю ў стрыманні гегеманісцкіх памкненняў Б.Хмяльніцкага ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. В. быў скінуты з трона Георгіем Стафанам, стаўленікам туркаў. Памёр у зняволенні ў Стамбуле.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno, 1859; Исаевич Я.Д. Преемники первопечатника. М., 1981; Голенченко Г.Я. Новые материалы по истории культурных связей Белоруссии с Россией и Украиной // Книга в Белоруссии: книговедение, источники, библиография. Мн., 1983. Вып. 2; Очерки внешнеполитической истории Молдавского княжества. Кишинев, 1987. С. 202—205.

***Алесь Белы.***

**Васіль III** Іванавіч (Василий III Иванович; 25.2.1479, Масква—4.12.1533), вялікі князь маскоўскі [1505—33]. Сын Івана III і Соф'і Палеалог. Завяршыў аб'яднанне рас. зямель вакол Масквы. У 1510 пад уладу В. III перайшоў Пскоў. Пасля смерці вял. князя літоўскага Аляксандра (1506), які быў жанаты з сястрою В. III *Аленай Іванаўнай*, дамагаўся, каб яго выбралі вял. князем ВКЛ. Атрымаўшы адмову, пачаў рыхтавацца да вайны з ВКЛ. *Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08* скончылася безвынікова, аднак на службу да В. III перайшла групоўка князёў Глінскіх. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* 1.8.1514 з дапамогай М.Л.Глінскага ўзяў Смаленск, але 8 вер. ў *Аршанскай бітве 1514* маскоўскае войска было разбіта. Паводле перамір'я 1522 Смаленск застаўся за Масквою. 2-м шлюбам жанаты з Аленай Васілеўнай Глінскай, пляменніцай М.Л.Глінскага (1526), з якой меў сына *Івана IV* Грознага.

*Літ.*: Зимин А.А. Россия на пороге Нового времени: (Очерки по истории России 1-й трети XVI в.). М., 1972.

**васкабойня**, майстэрня для прыгатавання воску. На Беларусі вядома з 16 ст. Невялікае збудаванне, звычайна драўлянае, з каменнай або цаглянай печчу, у якую ўмуроўвалі кацёл для плаўкі воску. Расплаўлены воск выцякаў па спец. латаку і напаўняў разнастайныя формы. В. часта згадваліся ў прывілеях гарадам на магдэбургскае права. Паводле дакументаў 16—18 ст., В. існавалі ў Полацку, Мінску, Оршы, Слуцку і іншых гарадах; былі яны і ў мястэчках, фальварках, манастырах.

**Вастрабрамскі абраз Маці Божай**, адна з галоўных хрысціянскіх святынь у Літве і на Беларусі. Захоўваецца ў капліцы *Віленскай Вострай брамы*. Ушаноўваецца каталіцкай і правасл. цэрквамі. Уяўляе сабой паясную выяву Дзевы Марыі, намаляваную тэмперай на дубовай дошцы. Найб. вядома т.зв. корсуньская версія паходжання абраза, якую ў 1839 надрукаваў Т.Нарбут, пазней распрацавана царк. гісторыкамі. Паводле яе абраз прывезены ў Вільню вял. князем ВКЛ Альгердам у 1363 з г. Корсунь (Херсанес, цяпер у межах г. Севастопаля, Украіна) пасля пасяховага паходу ў Крым. Вял. княгіня Ульяна, прасвасл. хрысціянка, аддала абраз у заснаваны ёю манастыр Св. Тройцы. У канцы 15 ст., калі Вільню абнеслі мурам, абраз паставілі над Медніцкай (Вострай) брамай. Калі манастыр Св. Тройцы стаў уніяцкім, капліца над брамай разам з абразом перайшла пад апеку кармелітаў, для якіх у 1621 падканцлер Стафан Пац і віленскія бурмістры Дубовічы заснавалі кляштар непадалёку ад Медніцкай брамы. Існуе таксама легенда, што прататыпам для абраза паслужыла Барбара Радзівіл, незвычайная прыгажосць і драматычны лёс якой зрабілі яе легендарнай асобай. Стыль жывапісу і тэхналагічныя асаблівасці сведчаць, што абраз намаляваны ў 1-й трэці 17 ст. невядомым мастаком,



**Вастрабрамскі абраз Маці Божай.**

які добра ведаў усх.-правасл. іканапіс і жывапіс Паўн. Еўропы. Адметнае шанаванне абраза пачалося ў канцы 17— пач. 18 ст. У кнігах пра цудатворныя абразы 1650—87 вастрабрамскі абраз яшчэ не называецца. Першы запісаны цуд — уваскрэсенне памерлай дзяўчынкі — адносіцца да 1671. Шырокую славу абраз набыў у 1702 пасля паражэння шведаў, якія спрабавалі яго папсаваць. Найб. ўражанне на жыхароў горада зрабілі шматразовыя выратаванні абраза ў час пажараў Вільні 1706, 1748—49, 1754. У 1756 надрукавана песня пра абраз як абаронцу Вільні, тады ж уведзена ўрачыстае святкаванне Апекі Маці Божай. У шанаванні Вастрабрамскай Маці Божай аб'ядналіся рыма-католікі і уніяты, імшы служыліся паводле лац. і грэч. абрадаў. Вострая брама стала самым святым месцам Вільні. У 19 ст. Вастрабрамская Маці Божая стала лічыцца патронкай зямель ВКЛ (Літвы і Беларусі), культ абраза набыў патрыятычны сэнс, прапагандыстам яго стала інтэлігенцыя. У 1852 надрукавана першая анталогія вершаў, прысвечаных абразу. З'явіліся шмтлікія копіі абраза, ут.л. В.Ваньковіча для касцёла ў Парыжы, распаўсюдзіліся медальёны з яго выявай. 2.7.1927 на абраз урачыста накладзены залатыя кароны. Копіі абраза ёсць у многіх храмах Беларусі і Літвы. Свята абраза паводле правасл. календара 26 снеж., паводле каталіцкага — 16 лістапада.

*Літ.*: Kałamajska-Saeed M. Ostra Brama w Wilnie. Warszawa, 1990.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Ваўжэцкі** Тамаш (паміж 1753—59, Браслаўскі пав.—5.8.1816), грамадска-палітычны і вайсковы дзеяч ВКЛ. Харужы браслаўскі. З маладых гадоў практыкуючы ў земскіх судах, набыў вядомасць як выдатны знаўца права і практык-юрыст. З 1782 падстараста ковенскі, з 1784 падкаморы ковенскі. Пасол ад Браслаўскага пав. на Чатырохгадовым сойме 1788—92, далучыўся да дэмакр. плыні, быў прыхільнікам *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Разам з Ю.Нямцэвічам выступаў на сойме за паляпшэнне становішча сялянства. У сваім маёнтку ліквідаваў паншчыну і даў сялянам волю. Адстойваў пашырэнне правоў мяшчанства. Разам з пінскім паслом М.Бутрымовічам распрацаваў ухваленую соймам (1789) рэформу мясц. адм. кіравання ў ВКЛ і Кароне шляхам утварэння ваяводскіх і павятовых цывільна-вайсковых парадкавых камісій (пазней выкарыстаны Т.Касцюшкам як мясц. органы па кіраўніцтве *паўстаннем 1794*). Не жадаючы ўмешвацца ў барацьбу магнацкіх партый у ВКЛ, адмовіўся ад пратэкцыі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў набыцці ўплывовай пасады падскарбія. У 1791 вял. харужы ВКЛ. У снежні 1790 выбраны ў склад дэпутацыі сойма па выпрацоўцы законапраекта аб правах «дысідэнтаў» (праваслаўных і пратэстантаў) у Рэчы Паспалітай. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* быў радцам камандуючага арміяй ВКЛ ген.-лейт. Ю.Юдыцкага. Удзельнічаў у бітве пад Мірам (11.6.1792). Пасля адступлення войска ВКЛ пад Гродна прапаноўваў новаму камандуючаму М.Забелу накіраваць у тыл ворага дыверсійныя партыз. атрады, але не быў падтрыманы. Актыўны ўдзельнік паўстання 1794 на Беларусі і ў Літве. 24.4.1794 пасля перамогі паўстання ў Вільні ўвайшоў у склад *Найвышэйшай літоўскай рады* — рэв. ўрада Літвы і Зах. Беларусі. Прымаў удзел у арганізацыі віленскай муніцыпальнай гвардыі. З сярэдзіны мая 1794 адзін з кіраўнікоў паўстання ў Жамойці і Курляндыі. У канцы мая Касцюшка прызначыў яго сябрам Найвышэйшай Нац. рады ў Варшаве — гал. органа па кіраўніцтве паўстаннем у Рэчы Паспалітай. 20 чэрв. атрымаў ад Касцюшкі патэнт на званне генерал-лейтэнанта. У канцы верасня пад націскам пераўзыходзячых сіл рас. войска вывеў рэшткі сваіх атрадаў з Жамойці пад Гародню. Пасля паланення Касцюшкі выбраны «вышэйшым начальнікам» —



Т.**Ваўжэцкі**.

кіраўніком паўстання на ўсёй тэр. Рэчы Паспалітай. Пасля капітуляцыі Варшавы (6 ліст.) трапіў у палон, быў зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе напісаў успамін пра паўстанне. У снеж. 1796 па амністыі Паўла I вызвалены, вярнуўся на радзіму. З 1808 старшыня судова-адукацыйнай камісіі Віленскага ун-та, адначасова ўзначальваў дабрачыннае т-ва ў Вільні. У канцы 1811 прымаў удзел у антынапалеонаўскім з'ездзе шляхты ў Вільні. У 1812 узначаліў Літоўскі грамадз. к-т па забеспячэнні харчаваннем рас. войска. У час вайны 1812 знаходзіўся ў С.-Пецярбургу. Пасля вайны быў міністрам юстыцыі і пажыццёвым ваяводам у Каралеўстве Польскім. Памёр у Варшаве, пахаваны ў мяст. Відзы на Браслаўшчыне.

*Літ.*: Szyndler B. Tomasz Wawrzecki: Ostatni naczelnik powstania kościuszkowskiego. Warszawa, 1976; Пракопчык Л. Генерал касінераў // Пракопчык Л. «Дрэмле памятка дзён...» Мн., 1991.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Ваўкавішкі** (літ. Вілкавішкіс, Vilkaviškis, цяпер горад, цэнтр раёна Марыямпальскага пав., Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Ковенскім пав., у сутоках рэк Шэймена і Вілкаўя. Засн. ў 16 ст. У 1620 пабудаваны касцёл, у 1623 сінагога. У 1633 упамінаецца як цэнтр воласці.



Герб **Ваўкавыска**.

Магчыма, у 1660 мястэчка атрымала магдэбургскае права. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Ваўкавыск** (цяпер горад, цэнтр Ваўкавыскага р-на Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр Ваўкавыскага пав. Новагародскага ваяв., на р. Рось (прыток Нёмана). Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252, цэнтр *Ваўкавыскага княства*. З 2-й пал. 13 ст. ў складзе ВКЛ. Магчыма, у 14—17 ст. у В. існаваў замак. У 2-й пал. 14 ст. належаў Кейстуту, потым яго сыну Вітаўту. У канцы 14 ст. ўтвораны *Ваўкавыскі павет*. 16.3.1410 тэўтонскія рыцары на чале з вял. маршалам Ульрыхам фон Юнгінгенам авалодалі В., магчыма, яны імкнуліся захапіць Вітаўта, які ў гэты час знаходзіўся ў Слоніме. Ваўкавыская харугва ўдзельнічала ў *Грунвальдскай бітве 1410*. У 1430 Вітаўт заснаваў у В. касцёл св. Мікалая. У пач. 16 ст. горад атрымаў магдэбургскае права, меў герб: у блакітным полі галава ваўка. У 1513 у В. 9 вуліц, горад плаціў у дзярж. скарбніцу 20 коп грошаў, аднолькава з Навагародкам і Слонімам. З 1536 вядома Прачысценская царква. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* В. неаднаразова (1655, 1662) захоплівалі і бурылі рас. войскі. У час *Паўночнай вайны 1700—21* у сак. 1706 горад захапілі і разрабавалі шведы. У 1736 на сродкі Е.Ліноўскага ў В. размясцілася езуіцкая місія (у 1747 тут адкрылася школа), у 1753 пачалося будаўніцтва касцёла. У 2-й пал. 18 ст. ў горадзе дзейнічалі піяры і марыявіткі. У 1792 каля 1000 дамоў, касцёл, уніяцкая царква. У час *паўстання 1794* заняты паўстанцамі, моцна пацярпеў у ходзе баёў з рас. войскам. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**ВАЎКАВЫСК**
**паводле плана**
**канца XVIII ст.**

0 100 200 сажняў

Лічбамі і літарамі на плане пазначаны: *1* – дом шляхціца Чарташэўскага; *2* – крамы; *3* – дом шляхціца Булгарына (на плане неразборліва); *4* – земская канцылярыя; *5* – дом суддзі Калупайлы; *6* – дом падкаморай Сухадольскай; *7* – кляштар езуіцкі (на плане неразборліва); *8* – касцёл езуіцкі; *9* – дом суддзі Быкоўскага; *10* – дом хірурга Берка; *11* – дом шляхціца Петрашэўскага; *12* – царква уніяцкая, якая развалілася; *13* – дом шляхціца Сечаня; *14* – яўрэйская школа; *15* – ратуша; *16* – дом шляхціца Быхаўца; *17* – дом судоў земскіх і гродскіх; *18* – канцылярыя гродская; *19* – дом замкавы; *20* – млын (на плане неразборліва); *21* – дом шляхціца Немчыновіча; *22* – млын (на плане неразборліва); *23* – дом святара; *24* – касцёл фарны; *25* – млын; *26* – капліца уніяцкая (на плане неразборліва); ***a*** – вуліца Гродзенская; ***b*** – вуліца Віленская; ***e*** – мост; ***f*** – плошча; ***g*** – рынак; ***h*** – плошча; ***i*** – плошча; ***k*** – сажалкі; ***l*** – мост; ***m*** – брод; ***n*** – мост (на плане неразборліва); ***o*** – мост; ***p*** – мост (на плане неразборліва); ***q*** – вуліца Брэсцкая; ***r*** – могілкі; ***s*** – гара Замкавая; ***t*** – мост (на плане неразборліва)





**Ваўкавыскае Евангелле.**

**Ваўкавыскае Евангелле**, беларускі рукапісны помнік 16 ст. Месца стварэння невядома. Зробленая на кнізе ў 1751 прэсвітэрам «церкви Волковицкой» айцом Іаанам Савічам прыпіска дазволіла В.Шматаву звязаць Евангелле з Ваўкавыскам, аднак, магчыма, кніга знаходзілася ў в. Ваўкавічы Навагародскага пав. (у прыпісцы ўпамінаецца пан Казімір Корсак, навагародскі гродскі суддзя). У 19 ст. А.Рачынскі вывез Евангелле з Віцебскага Маркавага манастыра ў Віленскую публічную б-ку. В.е. з'яўляецца рэдкім узорам рукапіснай бел. кнігі рэнесансавага стылю: шматколерныя раслінныя арнаменты ініцыялаў і заставак выходзяць на правае і левае палі рукапісу. Рукапіс пашкоджаны: няма пачатку Евангелляў ад Марка, Матфея, няправільна збрашураваны Саборнік 12 месяцаў і казанні евангелістаў на кожны дзень (у канцы кнігі). Зберагаецца ў б-цы АН Літвы.

*Літ.*: Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской Публичной библиотеки, церковнославянских и русских. 1882. С. 36—38; Нікалаеў М. Палата кнігапісная. Мн., 1993.

***Мікола Нікалаеў.***

**Ваўкавыскае княства**, удзельнае княства ў 13 ст. ў басейне р. Рось (левы прыток Нёмана). Цэнтр — г. *Ваўкавыск*. Паводле пісьмовых крыніц вядомы адзіны кн. *Глеб*. Іпацьеўскі летапіс пад 1256 паведамляе, што ў паходах галіцка-валынскіх і мазавецкіх князёў на *яцвягаў* прымалі ўдзел князі ваўкавыскі Глеб, навагародскі Раман і свіслацкі Ізяслаў, таму што Глеб разам з інш. панёманскімі князямі быў у васальнай залежнасці (служылым князем) ад галіцка-валынскага князя. У час паходу татарскага ваяводы Бурундая на Літву ў 1258 галіцкі кн. Данііла Раманавіч захапіў Ваўкавыск, узяў у палон кн. Глеба. У 1260—80-я г. княства падуладнае літ. князям Войшалку, Шварну, Трайдзеню. Землі княства зведалі шматлікія паходы князёў Галіччыны і Валыні. У 1289 князі ВКЛ Будзікід і Будзівід перадалі В.к. валынскаму кн. Мсціславу Данілавічу, «абы с ними мир держал». Відаць, В.к. існавала працяглы час і пасля ўтварэння ВКЛ у канцы 13—пач. 14 ст.

*Літ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 2. М., 1962; Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Яго ж. Образование Литовского государства. М., 1959; Зверуго Я.Г. Древний Волковыск X—XIV вв. Мн., 1975.

***Яраслаў Зверуга.***

**Ваўкавыскі павет.** Утвораны ў канцы 14 ст. ў працэсе пераўтварэння былых удзельных княстваў у намесніцтвы, якое ажыццяўляў вял. князь Вітаўт. Цэнтр — г. *Ваўкавыск*. Папярэднікам В.п. было *Ваўкавыскае княства*, адно з асабістых уладанняў Вітаўта, а раней — яго бацькі Кейстута. Ваўкавыская харугва прымала ўдзел у *Грунвальдскай бітве 1410*. З 1413 В.п. адносіўся да Троцкага, з 1507 — да Новагародскага ваяводстваў. Плошча — каля 4 тыс. км² (польскія даследчыкі трымаюцца лічбы 4,8 тыс. км²), з іх каля 0,3 тыс. км² знаходзілася на тэрыторыі сучаснай Польшчы. Шляхецкае апалчэнне В.п. ў 1528 налічвала 260 коннікаў (з іх 148 былі дробнымі шляхціцамі, якія ішлі



Аўтар карты М.Ф. Спірыдонаў

ў войска асабіста, без слуг), у 1567 — 357 коннікаў і 8 чал. пешай шляхты. На тэр. павета пераважала дробнашляхецкае землеўладанне, але ў 1-й пал. 16 ст. знаходзіліся і магнацкія вотчыны — Воўпа (належала князям Гальшанскім, з 1557 — дзярж. ўласнасць), Мсцібогаў (належаў Кезгайлам, потым дзяржаве), Вял. і Малая Зэльва (уласнасць Іллінічаў і Кезгайлаў), Лыскава, Падароск і Петухова (вотчыны Клочкаў, з іх Лыскава да 1567 стала дзярж. уласнасцю), Свіслач, Рось (уладанні Хадкевічаў), Пескі і Бялавічы (пераходзілі ад Вішнявецкіх да Хадкевічаў і Сангушкаў) і інш. На пасадзе ваўкавыскіх намеснікаў (старастаў) вядомыя І.Іллініч (1473), І.Давойна (1478—95), В.Кучукавіч (1496—1505), Я.Забярэзінскі (1506—09), Я.А.Гальшанскі (1511), Ю.Глябовіч (1518—20), М.Клочка (1522—43), В.Цішкевіч (1546—52), М.Нарушэвіч (1556), Ю.Цішкевіч (1557—75). У працэсе адм. рэформы 1565—66 межы павета не змяніліся, у ім уведзены пасады маршалка (ім абраны А.Ваганоўскі), падкаморага, суддзі земскага (Я.Роскі) з падсудкам (Л.Вузлоўскі) і пісарам (Я.Хадакоўскі). У сярэдзіне 17 ст. ў В.п. налічвалася больш за 10 тыс. дымоў (што адпавядае колькасці насельніцтва каля 65—70 тыс. чал.), на 1667 засталося 7,7 тыс. дымоў. У 2-й пал. 17 ст. існавалі буйныя вотчыны Сапегаў (Зэльва, Петухова, Пескі, Рось), ім жа належала найбуйнейшае ў павеце Воўпенскае стараства. На 1690 В.п. падзяляўся на 14 парафій. Шляхецкія ўладанні ахoплівалі больш за 68% дымоў, дзяржаўныя — 25%, царкоўныя — менш за 7%. Колькасць насельніцтва ў апошняй чвэрці 18 ст. складала каля 75—90 тыс. чал. У 1795 павет далучаны да Рас. імперыі.

*Літ.*: Krakowski S. Powiat wołkowyski w końcu w. XVII: (Próba odtworzenia stosunków administracyjnych, gospodarczych i ludnościowych na podstawie taryfy podymnego z r. 1690) // Ateneum Wileńskie. 1939. R. 14. Z. 1; Я г о ж. Wykaz podatku podymnego powiatu wołkowyskiego z r. 1690. Wilno, 1939.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Ваўчанскі** Іеранім, гл. *Іеранім*.

**Ваўчанскі** Іосіф, гл. *Іосіф*.

**Вацлаў з Шамотул** (Wacław z Szamotuł), Ш а м а т у л ь ч ы к, Ш а м а т у л ь с к і (Szamotulczyk, Szamotulski; 1526 ці 1529—37, г. Шаматулы, Польшча—1567 ці 1568), кампазітар, выканаўца, прадстаўнік усходнееўрапейскага Адраджэння. Нарадзіўся ў мяшчанскай сям'і. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі. У маладыя гады служыў сакратаром у кашталяна троцкага Гераніма Хадкевіча ў Вільні. У 1547 атрымаў ганаровую пасаду спевака і кампазітара ў прыдворнай капэле Жыгімонта II Аўгуста, дзе набыў align рознабаковы мастацкі вопыт, удзельнічаў у касцельных службах і прыдворных канцэртах, вывучаў творы славутых поліфаністаў — прадстаўнікоў франка-фламандскай, італьянскай і польскай школ, а таксама бытавую (гал.ч. лютневую) музыку. У 1551 разам з інш. музыкантамі прыдворнай капэлы, якія суправаджалі караля, пабываў у ВКЛ. У 1555 паступіў на службу да князя М.Радзівіла Чорнага. Пры княжацкім двары ў Берасці зблізіўся з дзеячамі кальвіністкага руху, разам з Ц.*Базылікам* займаўся друкарскай справай, удзельнічаў у стварэнні Берасцейскага канцыянала (1558).

Муз. спадчына кампазітара ахоплівае творы розных жанраў: імшы, псалмы і інш. З іх зберагліся некалькі песень, 4-галосых матэтаў, інш. 4- ці 6-галосых літургічных твораў, выдадзеных у Кракаве ў розныя гады. Мяркуючы па іх, В. з Ш. дасканала валодаў тэхнікай рэнесансавага шматгалосага пісьма і трымаўся нідэрландскай поліфанічнай традыцыі. Увасобіў таксама некат. істотныя рысы свецкай гуманістычнай лірыкі з яе прасветленасцю эмацыянальна-вобразнага ладу, рэльефнай акрэсленасцю мелодый, чысцінёй гарманічных вертыкаляў і дакладнасцю формы. В. з Ш. лічыўся адным з самых аўтарытэтных кампазітараў, яго высока цанілі пры двары. Яму было даручана пісаць музыку да самых адказных прыдворных урачыстасцяў, у т.л. да цырымоніі шлюбу Жыгімонта II Аўгуста з Кацярынай Аўстрыйскай (1553), яго музыку ведалі не толькі ў Каралеўстве Польскім і ВКЛ, але і ў інш. краінах Еўропы. У 1554 у Нюрнбергу яго матэт выдадзены ў зборніку разам з творамі майстроў музычнага мастацтва (А.Вілаэрта, М.Гомберта, Клеменса-не-Папы, Ф.Вердэла і інш.).

*Літ.*: Д а д з і ё м а в а В.У. Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі. Мн., 2001.

***Вольга Дадзіёмава.***

**Вашча́нка** Васіль, беларускі гравёр па дрэве канца 17—1-й пал. 18 ст. Прадстаўнік Магілёўскай школы гравюры. Магчыма, сын М.Я.*Вашчанкі*. Працаваў у Магілёве ў друкарні Богаяўленскага брацтва (1694—1730). Большасць падпісаных і непадпісаных твораў (паводле некаторых звестак іх 22) звязана з кніжнай графікай. Выканаў дрэварыты: загалоўныя лісты ў кнігах «Дыёптра» (1698), «Неба новае» І.Галятоўскага, «Перла мнагацэннае» К.Т.Стаўравецкага (абодва 1699), «Кніга жыцій святых» Дз.Тупталы (1702, загаловачны ліст з відам Магілёва), лісты «Іаан Дамаскін», «Нараджэнне Хрыста» для «Асмагласніка» Іаана Дамаскіна (1730), антымінсы 1694, 1708 («Палажэнне ў труну Хрыста») і 1723 (з Богаяўленскага манастыра ў Полацку). Гравюры вылучаюцца майстэрскай пабудовай кампазіцыі, сялянскім тыпажом, дасканаласцю пластычнага малюнка, выразнасцю контурных ліній.



В.**Вашчанка**.
Нараджэнне Хрыста.
Гравюра з кн. «Асмагласнік»
Іаана Дамаскіна. Магілёў, 1730.

*Літ.*: Ж у д р о Ф. История Могилевского Богоявленского братства. Могилев, 1890; Ш ч а к а ц і х і н М. Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVII—пач. XVIII ст. Мн., 1925; 450 год беларускага кнігадрукавання. Мн., 1968. П і к у л і к А.М. Мастацтва магілёўскіх старадрукаў. Мн., 2002.

***Віктар Шматаў.***

**Вашча́нка** Максім Ярмаліні (1650-я гады, Магілёў—1708), беларускі друкар і гравёр па медзі. Адзін з заснавальнікаў Магілёўскай школы гравюры, арандатар *Магілёўскай друкарні*. Вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе атрымаў ступень бакалаўра філасофіі і вольных мастацтваў (1672), званне магістра навук (1673). Мастацтву малюнка і гравюры, відаць, вучыўся ў Віленскай акадэміі ў гуртку А.*Тарасевіча*, працаваў у Вільні

разам з Л.Кршчановічам, Тарасевічам, І.Шчырскім. Друкарскую дзейнасць пачаў у Слуцку, дзе ў 1678 зрабіў ілюстрацыі да кн. «Манархія Турэцкая» П.Рыко. 19 падпісных медзярытаў В. з'яўляюцца копіямі гравюр французскіх мастакоў С.Леклерка і Н.Кашэна для парыжскага выдання 1670 кнігі Рыко. З 1680-х г. працаваў у Магілёўскай брацкай друкарні, якой кіраваў з 1690-х г. да 1708. Выканаў каля 30 медзярытаў для кн. «Акафісты і каноны» (1693; друкаваліся таксама ў кнігах «Акафісты і каноны», 1726, і «Акафісты», 1728). Адзін з першых у бел. кірылічным кнігадрукаванні ўжыў тэхніку разцовага медзярыту. Многія працы В. створаны пад уплывам зах.-еўрап. традыцый. Яго творы вылучаюцца ўмелай кампаноўкай шматфігурных сцэн, багаццем святлоценявой мадэліроўкі, дасягнутай за кошт разнастайнай штрыхоўкі. Яго сын (?) В.*Вашчанка* вядомы як майстар выдатных дрэварытаў.



М.Я.**Вашчанка**.
Ілюстрацыя да кнігі П.Рыко
«Манархія Турэцкая».
Слуцк, 1678.

*Літ.*: Жудро Ф. История Могилевского Богоявленского братства. Могилев, 1890; Пікулік А.М. Мастацтва магілёўскіх старадрукаў. Мн., 2002.

***Алена Пікулік.***

**Вашчыла** Васіль Мацвеевіч (1690, в. Лобжа Мсціслаўскага ваяв.—28.8.1744), кіраўнік сялянскага руху і ўзбр. паўстання супраць феад. прыгнёту ў Крычаўскім старастве ў 1740-я г. Селянін в. Селішчы. Неаднаразова насіў уладальніку стараства Г.Ф.Радзівілу скаргі сялян на злоўжыванні і самавольства арандатараў, за што неаднаразова быў зняволены. Сваёй непрымірымасцю і актыўнай барацьбой супраць феад. ўціску завяваў павагу і аўтарытэт жыхароў сваёй і суседніх вёсак, таму быў выбраны войтам в. Селішчы. У маі 1740 узначаліў першы ўзбр. атрад з некалькіх сотняў сялян, да якога пазней далучыліся сяляне з інш. шляхецкіх уладанняў і з-за мяжы. У сярэдзіне 1741 у сял. хваляваннях, якія ахапілі большую частку Крычаўскага старавства, удзельнічала некалькі тысяч чалавек. Сяляне рабілі спробы знішчыць прадпрыемствы па вырабе паташу, грамілі маёнткі заможнай шляхты і ліхвяроў, знішчалі даўгавыя кнігі. У канцы 1743—пач. 1744 антыфеад. барацьба прыняла характар узбр. паўстання (гл. *Крычаўскае паўстанне 1743—44*). У баях пад Крычавам і каля в. Царковішча войскі Радзівіла разбілі дрэнна ўзброеныя сял. атрады і жорстка расправіліся з паўстанцамі. В. ўдалося ўцячы на Латакоўскі рас. фарпост, адкуль ён быў пераведзены на Цімошынскую пагранічную заставу. Радзівіл запатрабаваў выдаць В. як сял. важака, які павінен адказаць за ўсе «ліхадзействы». Каб не трапіць у рукі карнікаў, В. выдаў сябе за рас. падданага. Пакуль ішло следства, ён сядзеў у Кіева-Пячэрскай крэпасці, дзе захварэў на дызентэрыю і неўзабаве памёр.

*Літ.*: Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982; Его ж. Дело Вощилы: Новые разыскания // Неман. 1987. № 5; Мялешка В.І., Лойка П.А. Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Вашчылы. Мн., 1988.

**ваявода**, урад (пасада) у ВКЛ. У 14—15 ст. намеснік князя з судова-адм. і ваен. функцыямі (узначальваў дружыну) у некат. княствах, якія ўвайшлі ў склад ВКЛ. З 15 ст. сталы дарадца (радны пан) вял. князя літоўскага і намеснік манарха ў вял. правінцыі — *ваяводстве*, вайсковы і цывільны правіцель, а да рэформы сярэдзіны 1560-х г. звычайна і вышэйшы суддзя ваяводства. З 1569 пажыццёвы сенатар Рэчы Паспалітай.

Да канца 15 ст. тэрмінам В. называлі як вышэйшых правіцеляў зямель у этнічнай Літве, так і правіцеляў некат. русінскіх зямель. Часам гэты тытул ужываўся і да правіцеляў ніжэйшага рангу. Шырокае распаўсюджанне ваяводскага тытула, відаць, звязана з тэрміналагічным супадзеннем тытулаў русінскага В. (з судова-адм. функцыямі) і ваяводы-палаціна польскага тыпу, уведзенага *Гарадзельскім прывілеем 1413*. В. з адм. функцыямі існавалі ў Галіцка-Валынскім княстве, Чарнігава-Северскай зямлі, на Падляшшы, Валыні, Палессі і ў Жамойці. У адпаведнасці з Гарадзельскім прывілеем ваяводамі-палацінамі польскага тыпу сталі гал. намеснікі вял. князя літоўскага ў былых Віленскім і Троцкім княствах (але і да гэтага часу правіцель Вільні Манівід у лацінскіх дакументах называўся «palatinus» ці «voyewoda»). Аднак адбывалася не простае запазычванне тэрміналогіі польскай паліт. сістэмы, ішоў працэс размежавання сфер дзейнасці паміж абласнымі правіцелямі неаднолькавай кампетэнцыі. Была запазычана і пачала ажыццяўляцца ідэя В. як галавы і прадстаўніка мясц. рыцарства (шляхты). У адносінах да віленскага і троцкага намеснікаў гэта выявілася ў пашырэнні іх кампетэнцыі як военачальнікаў на тыя тэрыторыі, якія не знаходзіліся пад іх уладай як гал. намеснікаў. У 1558—79 віленскі В. заўжды займаў канцлерскую пасаду (такое злучэнне было зручным, бо канцлер знаходзіўся тады ў тым жа месцы, што і дзярж. канцылярыя разам з яе архівам). Віленскі і троцкі В. часам сумяшчалі свае пасады з пасадамі земскага (найвышэйшага) маршалка і вял. гетмана. Да 1540-х г. віленскія і троцкія В. былі выключна католікамі літоўскага паходжання. Гарадзельскі прывілей гарантаваў першыя месцы ў гаспадарскай радзе пасля віленскага біскупа 4 найвышэйшым свецкім дастойнікам дзяржавы — віленскаму В., троцкаму В., віленскаму кашталяну і троцкаму кашталяну. Відаць, тое, што Петраш Мантыгірдавіч пэўны час спалучаў пасады земскага маршалка і навагародскага намесніка, паўплывала на высокае месца навагародскага намесніка ў іерархіі, таму яго і некат. яго наступнікаў часта тытулавалі як В. Канчатковае ператварэнне намеснікаў навагародскіх у ваяводпалацінаў звязваюць з перамяшчэннем І.Л.Глінскага з пасады кіеўскага В. ў Навагародак у канцы 1506—пач. 1507. З 1471 тытул ваяводы-палаціна канчаткова атрымаў кіеўскі намеснік, а ў пач. 16 ст. — гал. намеснікі Полацкай (1504), Віцебскай (1506) і Смаленскай (1508—14) зямель (яны часам называліся В. і ў дакументах 15 ст.). У Жамойцкім княстве значэнне В. перайшло да генеральнага старасты. У 1513 створана Падляшскае ваяв. У дачыненні да гал. намеснікаў Кіеўскай, Полацкай і Віцебскай зямель



ідэя В. замацавала тое значэнне, якое перайшло да іх у спадчыну ад удзельных князёў. Смаленскі намеснік Ю.Глябовіч і да перайменавання яго пасады ў В. (1508) быў паліт. прадстаўніком і военачальнікам акругі, межы якой значна перавышалі межы яго судова-адм. павета.

У час сістэмнай рэформы дзярж. ладу ВКЛ 1565—66 Валынь была падзелена на Валынскае і Брацлаўскае ваяводствы. У той жа час са складу Віленскага і Троцкага ваяводстваў вылучаны Берасцейскае, Менскае і Мсціслаўскае ваяводствы. На Люблінскім сойме 1569 не было станоўча вырашана пытанне аб утварэнні Гарадзенскага і Ковенскага ваяводстваў, але адноўлена тытулярная пасада смаленскага В., які да часу вяртання Смаленшчыны ў склад ВКЛ мог адначасова займаць пасаду судовага старасты ў інш. паветах. Канчаткова склалася іерархія ваяводскіх пасад. ВКЛ у Сенаце да 1793 прадстаўляла 9 В. (віленскі, троцкі, смаленскі, полацкі, навагародскі, віцебскі, берасцейскі, мсціслаўскі і менскі, а таксама староста жамойцкі). У Інфлянтах, якія былі кандамініумам (супольным уладаннем) Кароны Польскай і ВКЛ, спачатку былі ўтвораны Вендэнскае, Парнаўскае і Дорпацкае ваяводствы. На Варшаўскім сойме 1677 створана Інфлянцкае ваяводства (княства). Канстытуцыя Гарадзенскага сойма 1793 прадугледжвала існаванне ў ВКЛ пасад В. у 8 ваяводствах: Віленскім, Троцкім, Жамойцкім, Навагародскім, Мерацкім (замест Смаленскага), Берасцейскім, Браслаўскім і Гарадзенскім. Былі скасаваны ўрады ваявод і кашталянаў полацкіх, віцебскіх, мсціслаўскіх, менскіх і інфлянцкіх. За В. скасаваных ваяводстваў тытулы і месца ў Сенаце былі захаваны пажыццёва.

Права прызначэння В. належала вял. князю, які прызначаў на гэту пасаду ураджэнцаў ВКЛ, якія належалі да шляхецкага стану, выявілі свае здольнасці на ніжэйшых па значэнні земскіх, вайсковых ці прыдворных пасадах, пажыццёва ці да прызначэння на больш высокую пасаду. Часта В. (асабліва віленскі і троцкі) прызначаліся з ліку буйнейшых і знатных феадалаў. У адпаведнасці са Статутам ВКЛ 1566 пры адсутнасці вял. князя на тэр. ВКЛ В. быў абавязаны арганізаваць скліканне і кантраляваць правядзенне з'ездаў па выбары кандыдатаў на вакантныя пасады ў земскім судзе, а ў адпаведнасці са Статутам ВКЛ 1588 і элекцыйных соймікаў В. адказваў за скліканне і правядзенне перадсоймавых і паслясоймавых соймікаў цэнтральнага павета ваяводства. Лісты вял. князя да паноў радных (у т.л. В.) указвалі, на які соймік кожны з іх мае прыбыць, але не абмяжоўвалася іх права прысутнічаць на сойміку інш. павета. Гарадзенскі сойм 1567 устанавіў нават матэрыяльную адказнасць у памеры 5 коп грошаў за адсутнасць В. на сойміку, але Статут 1588 ужо не прадугледжваў такой адказнасці. Калі В. прысутнічаў на любым сойміку на тэр. свайго ваяводства, то звычайна станавіўся соймікавым маршалкам (старшынёй). В. прымаў прысягі земскіх судовых ураднікаў. Адной з гал. задач В. было захаванне правапарадку ў ваяводстве, для падтрымання якога ён мог выкарыстоўваць ураднікаў і слуг, склікаць шляхецкае апалчэнне. У час паспалітага рушэння В. збіралі пад харугвы ваяводства апалчэнні з паветаў, якія знаходзіліся ў іх уласным трыманні (дзяржанні), з паветаў намеснікаў-дзяржаўцаў і цівуноў (пасля рэформы сярэдзіны 16 ст. — павятовыя харугвы), апалчэнні князёў і паноў, якія шлі пад сваімі ўласнымі харугвамі. Пасля гэтага В. павінны былі весці паспалітае рушэнне свайго ваяводства да месца збору войска ВКЛ і камандаваць сваёй харугвай, выконваючы загады гетмана ці вял. князя. В. складалі «попісы» маёнткаў ваеннаслужылых землеўладальнікаў.

Ад удзельных князёў да В. перайшла і вышэйшая судова-адм. ўлада ў акругах, якія былі асобнымі ўладаннямі ва ўдзельны перыяд. Улада В. была розная ў адносінах да розных катэгорый насельніцтва ваяводства. У тых межах, дзе В. былі намеснікамі-дзяржаўцамі, ваяводскі ўрад і функцыянаваў як урад дзяржаўцы. Ваявода загадваў гаспадаркай на замкавых землях, меў абавязак збіраць падаткі і чыніць суд сярод сялян, якія жылі ў яго ўладаннях. Усе здзелкі сялян, якія тычыліся зямлі у межах яго дзяржавы, павінны былі адбывацца з яго згоды. Усе ўраднікі на тэр. ваяводства выконвалі свае абавязкі пад агульным наглядам і кіраўніцтвам В. Ён здзяйсняў кантроль і над гарадамі, што не мелі магдэбургскага права. У некат. выпадках ваявода меў права дзейнічаць ад імя вял. князя (рабіць зямельныя падараванні, дазваляць зямельныя здзелкі з удзелам шляхты і інш.). В. меў права наглядаць над мерамі і вагамі, устанаўліваць цэны на рамесныя вырабы і напоі. Полацкі В. меў пацверджанае дакументальна права зносін з замежнымі краінамі. Як вышэйшы судовы ўраднік правінцыі В. павінен быў арганізаваць дзейнасць ваяводскага суда, якому не падлягалі толькі некат. буйныя князі і паны, асобы, якія мелі дадзеныя вял. князем «закривальные листы», а таксама духавенства, падданыя князёў, паноў і інш. шляхты. Да судовай рэформы сярэдзіны 1560-х г. ваяводскі суд разглядаў самыя разнастайныя справы: скаргі падданых вял. князя на суды дзяржаўцаў і цівуноў, зямельныя і інш. маёмасныя спрэчкі, справы аб выкананні дзяржаўназемскіх павіннасцей, зборы падаткаў, крымінальныя справы і інш. Суд В. мог быць судом 1-й ці 2-й інстанцыі і разглядаў часам як суд 1-й інстанцыі нават справы гаспадарскіх сялян. У адпаведнасці з соймавай ухвалай 1544 ваяводскі суд стаў абавязковым судом 2-й інстанцыі ў адносінах да судоў старастаў і дзяржаўцаў, у 1551 — судом 2-й інстанцыі ў адносінах да суда падваяводы. Пасля рэформаў сярэдзіны 1560-х г. В. ўзначалілі *гродскія суды* з дакладна вызначанай кампетэнцыяй у цэнтр. паветах сваіх ваяводстваў. Ваяводы берасцейскі, мсціслаўскі і менскі не атрымалі, аднак, адразу судовую і адм. кампетэнцыю ў цэнтр. паветах сваіх ваяводстваў, дзе захаваліся пасады судовых старастаў. Пасля рэформы гродскія суды разглядалі пераважна крымінальныя, часам і цывільныя справы. З 1578 абавязкам В. стала арганізацыя правядзення папярэдняга следства па найб. цяжкіх крымінальных справах. Засталося ў В. права разбіраць судовыя спрэчкі, у якіх адказчыкамі былі яўрэі. На час сваёй адсутнасці ў ваяводстве В. прызначаў намесніка (*падваяводу*), якому перадаваў усю сваю ўладу, у т.л. судовую. У адпаведнасці са Статутамі 1566 і 1588 абавязкам ваяводы было прызначэнне гродскага суддзі і гродскага пісара, зацвярджэнне на пасадах павятовых возных. В. меў даходы з замкавых зямель і гандлю, часам атрымліваў юргельт (гадавую плату з дзярж. скарбу). Некат. В. атрымлівалі ад вял. князя права трымаць карчму.

*Літ.*: Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской Унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Леонтович Ф.И. Областное управление в Великом Княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Юрид. записки,

издаваемые Демидовским юрид. лицеем. Ярославль, 1908. Вып. 2; 1909. Вып. 1—2. 1910. Вып. 1; Kutrzeba S. Historia ustroju Polski w zarysie. T. 2. Litwa. Lwów; Warszawa, 1914; Honik Z. Urząd podwojewodziego w Wielkiem Księstwie Litewskim: Studjum historyczne. Wilno, 1935; Lulewicz H. Skład wyznaniowy senatorów świeckich Wielkiego Księstwa Litewskiego za panowania Wazów // Przegląd historyczny. 1977. Z. 3; Płaza S. Historia prawa w Polsce: Zarys wykładu. Cz. 1: Polska przedrozbiorowa. Kraków, 1989; Старостина И.П. Судебник Казимира 1468 г. // Древнейшие государства на территории СССР, 1988—1989. М., 1991; Bardach J., Leśnodorski B., Pietrzak M. Historia ustroju i prawa polskiego. 4 wyd. Warszawa, 1998; Kaczorowski W. Biskipi, wojewodowie wileńscy na sejmach za Zygmunta III Wazy // Wilno—Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisko wielu kultur. Białystok, 1992. T. 2; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 1, 4. Warszawa, 2003.

***Андрэй Радаман.***

**Ваяводка**, Ваявудка (Wojewódka, Wojewothka, Voyevodka) Бярнард [?—26(?).7.1554], матэматык, друкар і перакладчык. У 1550 войт Кракава. Аўтар кнігі па матэматыцы «Алгарытм — навука лічбы» (Кракаў, 1553). Па запрашэнні канцлера ВКЛ М.*Радзівіла* Чорнага ў 1553 пераехаў у Берасце, дзе ўзначаліў першую на тэр. Беларусі друкарню (гл. *Берасцейскія друкарні*). Выдаў Вял. і Малы катэхізісы, перакладныя тэалагічныя творы Крыштофа Імлера і Урбана Рэгіуса, якія адпавядалі патрэбам рэфармацыйнага руху і былі накіраваны супраць каталіцкай царквы. На думку даследчыкаў, В. прымаў удзел таксама ў падрыхтоўцы да выдання *Берасцейскай біблії* (1563). Пасля смерці В. яго друкарскае абсталяванне прададзена ў Кракаў, а Берасцейская друкарня аднавіла дзейнасць у 1558 пад кіраўніцтвам С.*Мурмеліуса*.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959.

***Валерый Пазднякоў.***

**ваяводства**, адміністрацыйна-тэр. адзінка ў ВКЛ у 15—18 ст. Узнікла як ваен.-адм. акруга, уведзена паводле *Гарадзельскага прывілея 1413*, калі на аснове былых княстваў былі ўтвораны *Віленскае ваяводства* і *Троцкае ваяводства*. У Віленскае В. ўвайшла тэрыторыя паўн.-ўсх. літоўскіх зямель і большая частка зах., цэнтр. і ўсх. зямель Беларусі. У вайсковых адносінах віленскаму ваяводу падпарадкоўваліся наместнік новагародскі, а таксама фактычна аўтаномныя *Слуцкае княства, Клецкае княства* (да 1521) і *Мсціслаўскае княства* (да 1529), якія фармальна ўваходзілі ў Віленскае В. Троцкае В. ў 15—пач. 16 ст. ўключала цэнтр. і паўд. часткі Літвы і значную частку зах. і паўд. зямель Беларусі. У Троцкае В. ўваходзілі *Кобрынскае княства* і *Пінскае княства*. На У Беларусі Троцкае В. мела невял. ўчасткі тэрыторыі пасярод Віленскага В. — 28 сёл Бабруйскай вол. з Мышкавічамі, Парычамі і Шацілкавічамі — т. зв. «троцкая палова», а г. Бабруйск і 18 сёл — «віленская палова». Троцкаму ваяводу падначальваліся наместнікі берасцейскі, бельскі, дарагічынскі і мельніцкі. Палавіна тэр. Троцкага В. прыпадала на бел. землі. У 1471 Кіеўскае княства пераўтворана ў *Кіеўскае ваяводства*. Астатняя тэр. Беларусі ў 15 ст. ў склад В. не ўваходзіла, захоўваючы статус аўтаномных зямель. У пач. 16 ст. ў ВКЛ праведзены рэформы, якія далі магчымасць уніфікаваць яго адм.-тэр. падзел. Форма і структура яго былі набліжаны да адм.-тэр. падзелу саюзнага Польскага каралеўства. У 1504 Полацкая зямля пераўтворана ў *Полацкае ваяводства* без паветаў (фармальна лічылася адным паветам). У студзені 1507 са складу Віленскага В. вылучана *Новагародскае ваяводства*, у 1508 Смаленская зямля пераўтворана ў *Смаленскае ваяводства*, а ў 1513 Бельскі, Дарагічынскі і Мельніцкі паветы, вылучаныя з Троцкага В., аб'яднаны ў *Падляшскае ваяводства*. Аднак утварэнне новых В. у пач. 16 ст. па сутнасці не змяніла спосабаў кіравання дзяржавай: прадстаўніком велікакняжацкай улады і военачальнікам феад. апалчэння ў В. заставаўся *ваявода*, які ажыццяўляў таксама суд.-адм. функцыі. Шэраг зямель у ВКЛ захоўваў аўтаномію на аснове зацвярджэння ў граматах вял. князямі літоўскімі даўніх традыцый кіравання («мы старыну не рухаем»). Мясц. баяры і князі захоўвалі сваё пануючае становішча, што было паліт. уступкай бел. і укр. феадалам. Жыхарам Віцебскай і Полацкай зямель пацвярджалася права мець намесніка або ваяводу «па іх волі». Да адм. рэформ 1565—66 у ваяводскіх сеймах прымалі ўдзел усе феадалы, толькі ў шэрагу выпадкаў у іх удзельнічалі вярхі гараджан гал. горада В. Пасля рэформы шляхта атрымала большую магчымасць уплываць на справы мясц. кіраўніцтва на павятовых або ваяводскіх (дзе не было паветаў) сойміках. Рэформа таксама ўстанавіла межы В. і паветаў, якія захаваліся (за невял. выключэннямі) да 2-й пал. 18 ст. Віленскі сойм падзяліў ВКЛ на 29 паветаў, якія ўвайшлі ў 13 В. Створаны *Берасцейскае ваяводства, Мсціслаўскае ваяводства, Менскае ваяводства, Валынскае ваяводства* і *Брацлаўскае ваяводства*. Пасля рэформы Віленскае В. складалася з 5 паветаў (Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі і Лідскі), Троцкае — з 4 (Гарадзенскі, Ковенскі, Троцкі і Упіцкі), Новагародскае — з 3 (Ваўкавыскі, Новагародскі, Слонімскі), Падляшскае — з 3 (Бельскі, Дарагічынскі і Мельніцкі), Кіеўскае — з 2 (Кіеўскі і Мазырскі), Віцебскае — з 2 (Аршанскі і Віцебскі), Берасцейскае — з 2 (Берасцейскі і Пінскі), Менскае — з 2 (Менскі і Рэчыцкі), Валынскае — з 3 (Крэменецкі, Луцкі і Уладзімірскі), Брацлаўскае — з 3 (Брацлаўскі, Вінніцкі і Звянігарадскі паветы). Полацкае і мсціслаўскае В. былі без паветаў. У складзе Новагародскага пав. захавалася як асобная адм.-тэр. адзінка (са значнымі рысамі феад. ўдзельнага княства) Слуцкае княства, якое было пад уладай князёў Алелькавічаў. Фармальна працягвала існаваць Смаленскае В., хоць Смаленск у 1514 далучаны да Расіі, у 1611—54 у складзе ВКЛ. Яно падзялялася на 2 паветы — Смаленскі і Старадубскі. Пасля 1654 смаленская шляхта была паселена на тэрыторыі ад Браслава да Вільні, у якой збіраліся соймікі абодвух паветаў. Істотныя тэрытарыяльныя змены ў ВКЛ адбыліся ў 1569 напярэдадні Люблінскай уніі. Са згоды мясц. шляхты далучаны да Польшчы Падляскае (5.3.1569), Валынскае (26.5.1569), Брацлаўскае (1.6.1569), Кіеўскае (5.6.1569) В. Мазырскі пав. быў уключаны ў Менскае В. У выніку гэтага колькасць В. у ВКЛ зменшылася да 9, а паветаў да 22 (з іх 16 на тэр. Беларусі). У 1793 пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай сойм пераўтварыў Браслаўскі і Гарадзенскі паветы ў *Браслаўскае ваяводства* і *Гарадзенскае ваяводства*. 20.12.1793 ліквідаваны Менскае, Мсціслаўскае, Полацкае, Віцебскае і Смаленскае В., тэрыторыя якіх адышла да Рас. імперыі, астатнія В. скасаваны пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай.

В. называлі таксама цэнтральны павет пэўнага В.

*Літ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. М., 1915; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Вейсенгоф** Ян (1774, в. Анджэльмуйжэ каля Рэжыцы, Інфлянты—19.5.1848), вайсковы дзеяч ВКЛ і Польшчы. З 1789 на вайсковай службе ВКЛ у 8-м палку пяхоты ў Нясвіжы. Удзельнік абарончай вайны 1792 супраць Расіі, бітвы пад Мірам. У час *паўстання 1794* ад'ютант Я.Ясінскага, прызначаны Т.Касцюшкам маёрам кавалерыі. Пасля задушэння паўстання вандраваў па Еўропе. У 1806 далучыўся да войска ген. Я.Г.Дамброўскага і ўдзельнічаў у паўстанні на зах.-польскіх землях супраць прускага панавання, у ваен. дзеяннях 1809 супраць Аўстрыі на баку Напалеона. У вайне 1812 ад'ютант ген. Ю.Заёнчака, удзельнік бітваў пад Смаленскам, Барадзіном і інш. У 1813 атрымаў ад Напалеона званне генерала брыгады. Удзельнічаў у арганізацыі арміі Каралеўства Польскага, з 1826 генерал дывізіі. У час паўстання 1830—31 камандаваў дывізіяй уланаў, браў удзел у фарміраванні Надвіслянскага легіёна, камандаваў войскамі Кракаўскага ваяв. У 1831—33 у ссылцы ў Кастраме.

*Тв.*: Pamiętnik generała Jana Weyssenhoffa. Warszawa, 1904.

***Валерый Пазднякоў.***

**велдамы** (літ. veldamai), катэгорыя сялян у Літве ў канцы 14—16 ст. З'явіліся ў выніку перадачы вял. князямі ВКЛ сваіх *даннікаў* (лаўкінінкаў) баярам за нясенне вайск. службы. Прывілеем 1434 вял. князь Жыгімонт Кейстутавіч уступіў дзякла ад падараваных ім сялян баярам, а вял. князь Казімір прывілеем 1447 адрокся ад сярэбшчыны з падараваных Жыгімонтам Кейстутавічам сялян і скасаваў права В. на выхад. Падараваныя Казімірам сяляне і ў далейшым былі абавязаны плаціць сярэбшчыну і інш. падаткі. Прывілеем 1492 вял. князь Аляксандр перадаў сярэбшчыну і інш. падаткі з В. баярам, а вял. князь Жыгімонт Стары прывілеем 1507 — з В., падараваных Аляксандрам. У 2-й пал. 16 ст. В. канчаткова зліліся з інш. катэгорыямі сялян.

**Веліж** (рус. Велиж, цяпер горад, цэнтр Веліжскага р-на Смаленскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад, цэнтр *Веліжскай валасці*, на р. Дзвіна. Упер-



Герб **Веліжа**.

шыню ўпамінаецца ў «Хроніцы Быхаўца»: у 1-й пал. 15 ст. горад падпарадкаваўся ўладзе вял. князя Вітаўта, які прызначыў намеснікам у В. пінскага князя Юрыя Носа. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* адышоў да Масквы. У 1522 віцебскі намеснік спрабаваў яго адваяваць. У 1536 паводле загаду маскоўскіх улад тут пабудаваны замак з 9 вежамі. У *Інфлянцкую вайну 1558—82* у 1580 войскі канцлера Я.Замойскага ўзялі замак і горад «чрез подане доброволное». Паводле *Ям-Запольскага перамір'я 1582* зноў у складзе ВКЛ. 20.3.1585 горад атрымаў магдэбургскае права, меў герб: у блакітным полі залаты крыж, пад якім знаходзіўся агалены меч. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у 1655 захоплены рас. войскамі. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* застаўся ў складзе Расіі, у 1678 вернуты ВКЛ. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Веліжская воласць**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Вядома з канца 14 ст., суседнічала з віцебскімі і смаленскімі землямі. Паводле дагавора 1503 вялізныя раёны вярхоўяў Дзвіны і Дняпра разам з *Веліжам* адышлі да Вял. княства Маскоўскага. Веліжскія землі сталі актыўна засяляцца ўраджэнцамі цэнтр. маскоўскіх паветаў. У выніку вайны 1512—22 граніца на Пд ад Веліжа перанесена на ПдЗ за кошт смаленскіх зямель, далучаных да Масквы. Аднак на З знаходзіліся віцебскія землі, якія належалі ВКЛ. Такім чынам, памежнае становішча В.в. захавалася. В.в. набыла ролю аднаго з гал. апорных пунктаў і стала месцам засяроджання маскоўскіх войск, якія дзейнічалі супраць ВКЛ. У 1580 далучана да ВКЛ. Паводле *Ям-Запольскага перамір'я 1582* воласць засталася ў складзе ВКЛ. Але рас. бок адмовіўся перадаць ВКЛ тэрыторыю В.в., заяўляючы, што яна здаўна з'яўляецца таропецкай. Узнікла т.зв. «веліжская спрэчка», запланаваныя памежныя з'езды па веліжскай праблеме не адбыліся. Паводле *Дэулінскага перамір'я 1618* граніца перанесена далёка на У ад Веліжа. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у 1655 захоплена рас. войскамі. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* засталася ў складзе Расіі. Вернута ў 1678. Паводле *«Вечнага міру» 1686* В.в. замацавана ў складзе ВКЛ, дзе заставалася да 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772).

*Літ.*: Шеламанова Н.Б. К вопросу об изучении источников по истории внешней политики России в конце XVI в. // Новое о прошлом нашей страны. М., 1967.

***Віктар Цемушаў.***

**велікакняжацкі суд**, гл. *Гаспадарскі суд*.

**Велюона** (Veliuona), мястэчка ў Літоўскай Рэспубліцы, у Юрбаркскім р-не Таўрагскага пав., гл. *Вялена*.

**вена**, матэрыяльнае забеспячэнне *пасагу* жонкі маёмасцю мужа. У сувязі з тым, што пасаг паступаў у агульную ўласнасць новай сям'і, узнікала неабходнасць у забеспячэнні вяртання яго жонцы ў выпадку, калі шлюб спыняўся. Пасаг ацэньваўся і перадаваўся мужу за пэўную суму грошай, якую ён павінен быў аддаць пасля спынення шлюбу. Сямейнае права ВКЛ у 16 ст. прызнавала абавязковасць афармлення В. пад пагрозай яго страты. Паводле Статута ВКЛ 1588 (раздз. 5, арт. 1), памер маёмасці, якая афармлялася як В., вызначаўся наступным чынам: ацэньваліся пасаг жонкі і нерухомая маёмасць мужа, 1/3 маёмасці запісвалі жонцы як В. Калі В. не было запісана, жонка пасля смерці мужа не магла на яго разлічваць, а таксама траціла свой пасаг. Невянованая ўдава аставалася на роўнай з дзецьмі частцы маёмасці мужа, а пры выхадзе ў другі раз замуж атрымлівала ад спадчыннікаў бацькаўшчыны 30 коп грошаў. Удава не мела права на В. ад другога мужа, але ён мог запісаць на



яе рухомую і нерухомую маёмасць. Калі шлюб спыняўся па віне жонкі, яна траціла В., і, наадварот, мела права на В., калі гэта здаралася па віне мужа. У выпадку скасавання шлюбу па ўважлівай прычыне (без віны бакоў) В. заставалася мужу, а пасаг — жонцы.

*Галіна Дзербіна.*

**Венграў** (польск. Węgrów, цяпер горад у Мазавецкім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Падляшскім ваяв., на р. Лівец. Упершыню ўпамінаецца ў 1414, знаходзіўся на скрыжаванні гандл. шляхоў. У 1441 атрымаў магдэбургскае права і герб. З 1449 у складзе ВКЛ, падзяляўся на Стары, Новы і Рускі горад. У 16—18 ст. значны цэнтр рэфармацыйнага руху, з 1570 дзейнічалі арыянскія друкарня і школа, праходзілі сіноды евангелістаў. У 16 ст. належаў Кішкам, з 1592 — Радзівілам; пабудаваны познагатычны касцёл (перабудаваны ў 1703—06, нададзены барочныя рысы). У сярэдзіне 16 ст. тут пасяліліся *шкоты* (шатландскія эмігранты), пры якіх атрымала развіццё сукнаробства, В. багацеў на гандлі збожжам з Гданьскам. Пасля *Люблінскай уніі 1569* у складзе Польскага каралеўства. З 1664 уласнасць Красінскіх. У 1679 пабудавана капліца евангелістаў. У 1693—1707 пабудаваны кляштар рэфарматаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Аўстрыі.

*Валерый Грынявецкі.*

**Венгрыя**, дзяржава ў Цэнтральнай Еўропе. Прарадзімай паўкачавых плямён мадзьяраў, родных сучасным ханты і мансі, былі стэпы Перадуралля (прыкладна ў раёне сучаснага Башкортастана), адкуль яны праз Прыазоўе і Прычарнамор'е перасяліліся ў Еўропу, заняўшы ў канцы 9 ст. Сярэдняе Падунаўе. Адтуль здзяйснялі рабаўнічыя набегі на Зах. Еўропу. Разбітыя ў 955 на р. Лех германскім імператарам Атонам I, перайшлі да аселага ладу жыцця, стварылі дзяржаву, якая пры каралю Стафане I Святым у канцы 10 ст. прыняла каталіцтва. В. вяла актыўную заваёўніцкую палітыку ў Цэнтр. Еўропе і на Балканскім п-ве, падначаліла сабе многія славянскія (харватаў, сербаў, славакаў, частку продкаў украінцаў) і ўсх.-раманскія народы, у значнай ступені асіміляваўшы іх. У 1102 падначаліла Харвацкае каралеўства, якое з гэтага часу існавала ў асабістай уніі з В. З 1-й пал. 14 ст. прэтэндавала на тэр. *Галіцка-Валынскага княства*, часам саджаючы на галіцкі прастол венгерскіх манархаў. Берасцейская зямля разглядалася венгерскімі феадаламі як частка іх законнай спадчыны, і на працягу некалькіх стагоддзяў авалоданне ёю як апошнім рубяжом на ПнУ лічылася адной са стратэгічных мэт венгерскай экспансіі. З 13 ст. В. актыўна падтрымлівала *крыжовыя паходы* супраць ВКЛ. Менавіта венгерскі кароль Андрэй II запрасіў *Нямецкі ордэн* ва Усх. Еўропу ў 1211, асадзіўшы іх у раёне плато Бырса (сучасная Румынія) для абароны ад полаўцаў. Праз кароткі час крыжакі былі выгнаныя з В. і пасяліліся ў Прусіі, але і надалей В. працягвала аказваць ім паліт. і ваенную падтрымку. Найб. варожымі адносіны паміж ВКЛ і В. былі ў часы караля *Людвіка I* Вялікага [1342—82]. Пасля смерці апошняга гаспадара Галіцка-Валынскага княства (1340) уся Валынь са сталіцай у Луцку перайшла да *Любарта* Гедзімінавіча, які прэтэндаваў і на Галічыну. У 1340—49 галіцкае баярства намінальна прызнавала гаспадаром то Любарта, то польскага караля *Казіміра III*, то Людвіка I. У лют. 1345 Людвік у складзе войска крыжакоў беспаспяхова асаджаў Вільню, у 1349—51 арганізоўваў сумесныя з Польшчай паходы на Валынь, Падляшша і Берасцейшчыну. Асабліва няўдалай для ВКЛ была вайна у ліп.—жн. 1351, калі Людвік захапіў у палон Любарта і *Кейстута*. 15.8.1351 падпісаны дагавор, паводле якога ВКЛ мусіла заплаціць вял. выкуп і адмовіцца ад прэтэнзій на Галіччыну. Кейстут і Любарт адправіліся ў Венгрыю як гаранты дагавора і для хрышчэння, але здолелі ўцячы. Дагавор вядомы з хронікі ананімнага францысканца, удзельніка выправы (магчыма, Янаша Кецы); у гэтай жа хроніцы падуладная Любарту Валынь названая «зямлёй белых русінаў» (такая лакалізацыя *Белай Русі* ўласцівая венгерскім крыніцам 13—16 ст.). У 1352 пры аблозе горада ВКЛ Белз у Зах. Валыні Людвік быў паранены. Пасля заняцця ім польскага трона ў 1370 войны з ВКЛ аднавіліся. У 1377 Белз і Холм разам з Галіччынай часова ўвайшлі ў склад В.; Любарт, падольскія князі Аляксандр і Барыс *Карыятавічы* і ратненскі кн. Фёдар Альгердавіч (якому належаў і Кобрын з акругай) прызналі сюзерэнітэт В. Людвік прапанаваў некалькі праектаў хрысціянізацыі Літвы, ініцыяваў стварэнне *Луцкай рымска-каталіцкай епархіі* ў 1375. Пасля смерці Людвіка яго дачка *Ядвіга* абраная польскай каралевай [1384—99]; яе шлюб з вял. князем літоўскім *Ягайлам* садзейнічаў далучэнню ВКЛ да зах. цывілізацыі і даў пачатак шматвяковаму дзярж. саюзу ВКЛ і Польшчы, форма якога эвалюцыянiравала ад *Крэўскай уніі 1385* да *Люблінскай уніі 1569*. Як і Польшча, у 15—16 ст. ВКЛ адчувала значны ўплыў В., асабліва ў матэрыяльнай культуры (распаўсюджанне венгерскага строю мужчынскай вопраткі, гатунку сліў, высокі прэстыж венгерскага віна, выкарыстанне венгерскага дуката ў якасці рэгіянальнай залатой валюты і г.д.). Першай сумеснай ваеннай акцыяй Польшчы і ВКЛ было выцясненне венгерскіх войск з Галіччыны ў 1387. У выніку ліквідацыі *Вітаўтам* у 1393 многіх удзельных княстваў, у т.л. на Падоллі, кн. Фёдар Карыятавіч уцёк у В., у 1396—1414 кіраваў некалькімі замкамі ў Закарпацці з цэнтрам у Мукачаве; у 1420 беспаспяхова спрабаваў вярнуць сабе Падолле. У пач. 15 ст. інтарэсы ВКЛ і В. сутыкаліся таксама на *Малдаўскім княстве*, якое планаваў падначаліць Вітаўт. Пры каралю Жыгімонце Люксембургу В. працягвала падтрымку Нямецкага ордэна, выступіла яго саюзнікам у *Вялікай вайне 1409—11* (мірны дагавор Польшчы і ВКЛ з В. заключаны ў 1412 у Любоўлі). Жыгімонт Люксембург даваў прытулак у В. *Свідрыгайлу*, падтрымліваў яго змаганне супраць цэнтралізатарскай палітыкі Вітаўта. У 1440 венгерскім каралём быў абраны сын Ягайлы Уладзіслаў (польскі кароль з 1434), які загінуў у 1444 у крыжовым паходзе супраць туркаў пад Варнай. Яго смерць выклікала аднаўленне персанальнай уніі ВКЛ і Польшчы пад уладай *Казіміра IV* Ягелончыка (з 1447). У 1490 венгерскім каралём быў абраны яго сын Уладзіслаў, і на пэўны час (1490—1526) улада над дзяржавамі Цэнтр. і Усх. Еўропы (В. з Харватыяй, Чэхія, Польшча, ВКЛ) засяродзілася ў руках дынастыі *Ягелонаў*. «Ягелонаўскі свет», ад Адрыятыкі і Чорнага мора да Балтыкі і ад Судэтаў да Акі, звязаны толькі сваяцтвам манархаў, меў толькі сімвалічную паліт. еднасць. Аднароднасць гэтай часткі Еўропы надавала прывілеяванае становішча класа землеўладальнікаў — *шляхты*. Баланс улады паміж шляхтай і манархіяй у гэтым рэгіёне на працягу амаль усяго 16 ст. заставаўся надзвычай роўным, і менавіта ў В. была выпрацаваная такая мадэль дзярж. ладу. Апошні венгерскі

манарх з дынастыі Ягелонаў, Людвік II, загінуў у бітве з туркамі пад Мохачам у 1526, якая зруйнавала магутнасць венгерскай дзяржавы. Яшчэ да гэтага, у выніку дыпламатычнай місіі ад *Жыгімонта I* Старога на чале з М.*Радзівілам* да *Фердынанда I* Габсбурга была дасягнута дамоўленасць пра шлюб Фердынанда з Ганнай Ягелонкай, дачкой Уладзіслава Ягелона (узяты ў 1521), і пра магчымасці пераходу Чэхіі і В. ад Ягелонаў да Габсбургаў (гл. *Венскі з'езд 1515*). З 1526 у В. ішла барацьба за ўладу паміж 2 каралямі: Фердынандам (літ. паны больш сімпатызавалі яму) і Янашам Запальяі, жанатым на Ізабеле (дачцы Жыгімонта Старога і Боны), які меў больш прыхільнікаў у Польшчы. Пасля захопу Буды туркамі ў 1541 В. на паўтара стагоддзя распалася на 3 часткі: каралеўскую В., на чале з Габсбургамі, цэнтр. частку, што ўвайшла непасрэдна ў склад Асманскай імперыі, і залежнае ад яе Трансільванскае княства, якое падтрымлівала цесныя сувязі з Польшчай і ВКЛ. У 1576 трансільванскі кн. *Стафан* Баторый абраны польскім каралём і вял. князем літоўскім. Праведзеныя ім дзярж. і ваен. рэформы дазволілі давесці да перамогі *Інфлянцкую вайну 1558—82*. Венгерскі культ. ўплыў на ВКЛ пры Баторыю дасягнуў найвышэйшага ўзроўню: канчаткова аформіўся нац. шляхецкі кунтушовы строй адзення, венгерская пяхота стала ўзорам для фарміравання пяхотных аддзелаў войска ВКЛ (гайдукі). К.*Бекеш* гуртаваў вакол сябе *антытрынітарыяў* ВКЛ. Значная частка венграў з войска Баторыя засталася ў ВКЛ і ўлілася ў склад бел. і літ. народаў. Трансільванскі князь Дзьёрдзь II Ракацы [1648—60] імкнуўся аднавіць адзіную «Вялікую В.», незалежную ад Габсбургаў і Асманскай імперыі, да якой хацеў далучыць і значную частку Рэчы Паспалітай. У *Паўночную вайну 1655—60* ён падтрымліваў шведаў, заключыў са Швецыяй, Брандэнбургска-Прускім курфюрствам і Б.Хмяльніцкім *Раднoцкі дагавор 1656*. Меркавалася, што тытул польскага караля разам з Валынню, Падляшшам і Берасцейшчынай дастанецца Ракацы; Курляндыя, Віленскае, Троцкае і Інфлянцкае ваяводствы ВКЛ — Швецыі; усх. Беларусь — Б.Хмяльніцкаму, а з Навагародскага ваяв. і некаторых інш. тэрыторый будзе створана незалежнае спадчыннае княства для Б.Радзівіла. Рэалізуючы Раднoцкі дагавор, шведска-трансільванска-казацкае войска 23.5.1657 захапіла Берасце, камендантам якога быў пастаўлены палкоўнік А.Гаўдзі, аднак венгерская акупацыя працягвалася ўсяго некалькі месяцаў. Уз'яднанне ўсіх 3 частак В. пад уладай Габсбургаў адбылося ў выніку перамогі польска-аўстра-нямецкага войска над туркамі ў *Венскай бітве 1683*. Войска ВКЛ удзельнічала ў кампаніі 1683, але найб. вызначылася рабункамі мірнага насельніцтва габсбургскай часткі В. (на тэр. сучаснай Славакіі).

*Літ.*: Florianus M. Chronicon Dubnicense // Historiae Hungaricae Fontes Domestici. Vol. 3. Lipsiae, 1884; Филевич И.П. Борьба Польши и Литвы-Руси за галицко-владимирское наследие. СПб., 1890; Довнар-Запольский М. Из истории литовско-польской борьбы за Волынь: (Договоры 1366 года) // Университетские известия. Киев, 1896. № 8; Lewicki A. Kilka przyczynków do dziejów Kazimierza Wielkiego // Kwartalnik historyczny. 1899. R. 3; Paszkiewicz H. Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. Warszawa, 1925; Шабульдо Ф.М. Земли Юго-Западной Руси в составе Великого княжества Литовского. Киев, 1987; Бэтс Р.Р. Канстытуцыйны працэс і палітычная думка ва Усходняй Еўропе // Бел. гіст. агляд. 1999. Сш. 1—2; Белы А. Невядомыя эпізоды «невядомае вайны», або Ваенныя дзеянні Швецыі супраць ВКЛ у 1656—1657 гг. вачыма Эрыка Дальбэрга // Спадчына. 1999. № 3; Я г о ж. Хроніка *Белай Русі*. Мн., 2000.

***Алесь Белы.***

**Вендэн** (латышск. Цэсіс, Cēsis, цяпер горад у Латвійскай Рэспубліцы), горад у Лівоніі (*Інфлянтах*), рэзідэнцыя магістраў Лівонскага ордэна (1237—1561), палітыка-адміністрацыйны цэнтр інфлянцкіх тэрыторый у складзе ВКЛ (1566—69) і Рэчы Паспалітай (1569—1629); на р. Гаўя (Аа). У 1209 Ордэн мечнікаў пачаў тут будаўніцтва мураванага замка на Арэхавай гары — месцы дрэва-землянога ўмацавання латгалаў (вендаў). З 1221—37 упамінаецца рамесна-гандлёвы пасад В. Да 1323 В. атрымаў гар. правы на ўзор Рыгі. Першапачаткова горад кіраваўся войтам, якога прызначалі ордэнскія ўлады. Пасля аформіўся вышэйшы орган самакіравання — рада на чале з бурмістрам (упершыню ўпамінаецца ў 1365). В. уваходзіў у Ганзейскі саюз, меў права біць уласную манету. Планіроўка горада ў асноўных рысах склалася ў 2-й пал. 13 ст. Замак магістра знаходзіўся ў паўн. частцы В., у цэнтры горада размешчаны рынкачная плошча і касцёл св. Яна (пабудаваны ў 1281—84). Вакол горада ўзведзены даламітавы мур з 8 вежамі і 5 брамамі. Ордэнскі замак у 1237 перабудаваны як крыжацкі замак-канвент, меў 3 вежы і капліцу, падыходы да яго абаранялі 3 умацаваныя форбургі. Руіны замка захаваліся да нашага часу. 28.11.1561 прадстаўнікі В. разам з магістрам, рыжскім арцыбіскупам і прадстаўнікамі г. Вольмар склалі каралю польскаму і вял. князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту прысягу вернасці. На Гарадзенскім сойме 25.12.1566 правабярэжная Лівонія пад назваю *Задзвінскае княства* была ўключана ў склад ВКЛ. Адна з 4 новастворaных акруг, Вендэнская, ахоплівала былыя ордэнскія землі. Паводле Люблінскай уніі 1569 Вендэнская акруга, як і ўсё Задзвінскае княства, стала кандамініумам ВКЛ і Польшчы. Атакаваны ў 1577 войскамі цара Івана IV, Вендэнскі замак быў падарваны ўласным гарнізонам. З 1582 В. — цэнтр Вендэнскага прэзідыята, на аснове якога ў 1598 створана *Вендэнскае ваяводства*. У 1582 створана Вендэнскае біскупства — адзінае ў падулад-



**Вендэн**. Замак.

ных Рэчы Паспалітай Інфлянтах (гл. *Інфлянцкая рымска-каталіцкая епархія*). Вышэйшая апеляцыйная інстанцыя Інфлянтаў у складзе Рэчы Паспалітай — Судовы соймік, склікаўся ў В. 2 разы на год. У 1598 замест яго створаны Краёвы трыбунал. На агульны соймік Інфлянтаў В. дэлегаваў 1 пасла. Паводле Альтмаркскага перамір'я 1629 В. перайшоў да Швецыі. З 1721 В. пад уладай Расіі.

*Літ.*: Czaja R. Miasta inflanckie i estońskie w XIII—XVI wieku // Inflanty w średniowieczu: Władztwa zakonu krzyżackiego i biskupów. Toruń, 2002.

***Алег Дзярновіч.***

**Вендэнскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка Рэчы Паспалітай у 1598—1667. Цэнтр — г. *Вендэн*. Ахоплівала латышскую частку Інфлянтаў (Відземе) з Латгаліяй; уключала часткі былых тэрыторый Лівонскага ордэна і Рыжскага арцыбіскупства. Мяжой ваяводства на Пд была р. Дзвіна, на ПнЗ — р. Гаўя (Аа). В.в. створана паводле «Інфлянцкай ардынацыі» 1589. Фактычна ў ваяводства быў перайменаваны Вендэнскі (або Інфлянцкі) прэзідыят, створаны паводле падпісанай 4.12.1582 Стафанам Баторыем «Інфлянцкай канстытуцыі». Ён складаўся з 31 акругі, цэнтрамі якіх былі ранейшыя ордэнскія ці біскупскія замкі. За ўзор сістэмы кіравання прэзідыятамі былі ўзяты ваяводствы Каралеўскай Прусіі. Стварэнне прэзідыята, а потым і ваяводства, парывала са старажытным адм. ладам Лівоніі, бо не ўлічвала ранейшы падзел на ордэнскія і біскупскія ўладанні. Перайменаванне ў 1598 азначала уніфікацыю статуса В.в. з іншымі тэрыторыямі Рэчы Паспалітай (за выключэннем правоў рыцарства). Вендэнскія ваявода і кашталян атрымалі месцы ў Сенаце Рэчы Паспалітай. Урады (пасады) ваяводства павінны былі замяшчацца пароўну з прадстаўнікоў 3 «народаў» — Польшчы, ВКЛ і Інфлянтаў. Унутраны адм.-тэр. падзел ваяводства не быў прапісаны. У выніку рэвізій (у т.л. 1599, праведзенай Л.Сапегам) створаны старасты, якія не былі ў поўным сэнсе адм.-тэр. адзінкамі, а выконвалі найперш гаспадарча-фіскальныя функцыі. У выніку *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* большая частка В.в. была страчана на карысць Швецыі. Паводле *Альтмаркскага перамір'я 1629* у складзе Рэчы Паспалітай засталіся толькі 4 паўд.-ўсх. латгальскія старасты — Дынабургскае, Рэжыцкае, Люцынскае і Марыенгаўзенскае. Паводле *Аліўскага міру 1660* Рэч Паспалітая канчаткова прызнала за Швецыяй заваяваную ёю частку Інфлянтаў. Рэшта В.в. ўвайшла ў 1667 у склад новастворанага *Інфлянцкага ваяводства*.

Ваяводы вендэнскія: Г.Фарэнсбах (1598—1602), М.Дэмбінскі (1602—06), К.Слушка (1606—19), Т.Дэнгаф (1620—22), І.Тарноўскі (1627—41), Т.Сапега (1641—43?), М.Корф (1643—59), А.Морштын (1659—60).

Кашталяны вендэнскія: Ё.фон Фюрстэнберг (1566—пасля 1583), Г.фон Шонкінг (1599—1605), Г.Я.Тызенгаўз (1621—34), М.Корф (1634—43), М.Глябоцкі (1643—47), Г.С.Кашоўскі (1647—80).

*Літ*: Tarvel E. Stosunek prawnopaństwowy Inflant do Rzeczypospolitej oraz ich ustrój administracyjny w l. 1561—1621 // Zapiski historyczne. 1969. Z. 1; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII w.: Spisy. T. 9. Urzędnicy inflanccy XVI—XVIII wieku. Kórnik, 1994.

***Алег Дзярновіч.***



**Венская бітва 1683**. Карціна 17 ст.

**Венская бітва 1683**. Адбылася 12 вер. пад Венай паміж турэцкай арміяй на чале з вял. візірам Кара-Мустафой і аб'яднанымі войскамі Свяшчэннай Рымскай імперыі і Польшчы на чале з польскім каралём Янам III Сабескім. Польскае войска прыбыло на дапамогу абложанай туркамі Вены на падставе заключанага ў крас. 1683 перамір'я з імператарам Леапольдам I. Польскіх войск налічвалася каля 27 тыс., аўстра-нямецкіх — каля 43 тыс., турэцкіх — каля 110—115 тыс. У ходзе бітвы турэцкая армія была разбіта. Гэта буйнейшая перамога паклала канец турэцкай экспансіі ў Еўропе.

Армія ВКЛ не здолела своечасова падысці на месца бітвы. Бел.-літ. войскі (10 тыс. чал.) на чале з вял. гетманам К.Я.Сапегам і польным гетманам Я.Агінскім у вер. 1683 былі сканцэнтраваны каля Янава-Падляшскага, пасля праз Кракаў 4.10.1683 уступілі ў Славакію для барацьбы з турэцкім васалам кн. Імрэ Цёкёем. Тут войскі ВКЛ вызначыліся гвалтам і рабункамі мірнага насельніцтва, што выклікала партызанскі рух. Незадаволенасць дзеяннямі арміі ВКЛ у Славакіі прывяла да таго, што Ян III Сабескі не здабыў уплыву ў Венгрыі і не здолеў там умацавацца як спадчынны манарх, што, на думку караля, павінна было садзейнічаць укараненню яго дынастыі ў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Semkowicz W. Udział wojsk litewskich Sobieskiego w kampanji roku 1683 // Ateneum Wileńskie. 1934. R. 9; Wimmer J. Wiedeń, 1683. Warszawa, 1983; Подхородецкий Л. Вена, 1683: Пер. з польск. М., 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

(цяпер у ёй музейная экспазіцыя). Захавалася таксама палацавая стайня і домік адміністратара, якія, магчыма, пабудаваны Гуцэвічам. Парк натуральным шляхамператварыўся ў нерэгулярны.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Верхнядзвінск**, горад, цэнтр Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. Рэспублікі Беларусь, гл. *Дрыса*.

**Вестэрфельд** (Westerfeldt, Westervelt) Абрахам ван (?—24 ці 30.4.1692), галандскі жывапісец, рысавальшчык і каліграф. У канцы 1640—пач. 1650-х г. працаваў на Беларусі як прыдворны мастак польнага гетмана ВКЛ Я.*Радзівіла*. Быў сведкам падзей *антыфеадальнай вайны 1648—51*, якія адлюстраваў у малюнках (зберагліся ў копіях канца 18 ст.): «Паланенне М.Крычэўскага пад Лоевам» (1649, паводле гэтага малюнка на Карэліцкай мануфактуры каля 1760 створаны габелен), «Казацкія паслы ў Радзівіла», «Уступленне Радзівіла ў Кіеў у 1651», «Разгром казакамі літоўскай флатыліі на Дняпры» (1651) і інш. Аўтар партрэтаў Крычэўскага, Б.Хмяльніцкага, замалёвак помнікаў архітэктуры Кіева.

*Літ.*: Смирнов Я.И. Рисунки Киева 1651 г. по копиям их конца XVIII в. // Труды XIII Археологического съезда. М., 1908. Т. 2; Batowski Z. Abracham van Westervelt, malarz holenderski XVII w. i jego prace w Polsce // Przegląd historii sztuki. 1932. Z. 3—4.



А. ван **Вестэрфельд**.
Войска ВКЛ на чале з Я.Радзівілам ля Залатой брамы ў Кіеве. 1651 (копія 18 ст.).

**Венскі з'езд 1515**, з'езд у Вене імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна I Габсбурга, караля Венгрыі і Чэхіі Уладзіслава II Ягелона, караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта I. Максімілян I намагаўся стварыць антытурэцкую кааліцыю, пашырыць свой уплыў на Чэхію і Венгрыю шляхам дынастычных шлюбаў. Уладзіслаў II шукаў апоры ў імператара супраць пагрозы турэцкага нашэсця і сял. рухаў. Жыгімонт I намагаўся прадухіліць пагрозу ваеннага нападу на Польшчу з боку імператара ў час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22*, а таксама скасаваць патранат імператара над Тэўтонскім ордэнам. З ВКЛ у з'ездзе ўдзельнічалі канцлер М.Радзівіл і маршалак гаспадарскі Б.Багавіцінавіч. Перад з'ездам Уладзіслаў II і Жыгімонт I сустрэліся ў канцы сак. 1515 у Браціславе, дзе абмеркавалі сумесныя пазіцыі, а таксама правялі папярэднія перагаворы з прадстаўніком імператара кардыналам М.Лянгам. Чэшскі і венгерскі каралевіч Людвік Ягелон заручыўся з унучкай імператара Марыяй, а яго сястра каралеўна Ганна заручылася з унукам імператара Фердынандам. На з'ездзе 20 і 22 ліп. было дамоўлена, што калі род Уладзіслава II згасне, то Чэхія і Венгрыя далучацца да імперыі Габсбургаў, а калі згасне род Габсбургаў, то Аўстрыя далучыцца да Чэшска-Венгерскай дзяржавы Ягелонаў. Максіміліян I адмаўляўся ад патранату над Тэўтонскім ордэнам, ад саюзу з Расіяй 1514, даў згоду на сваё пасрэдніцтва ў перагаворах з вял. князем маскоўскім Васілём III аб спыненні вайны з ВКЛ. Жыгімонт I і Уладзіслаў II абяцалі ўступіць у антытурэцкую кааліцыю на чале з рымскім папам Львом X. Прынятыя пагадненні прадугледжвалі дружалюбныя адносіны паміж Свяшчэннай Рымскай імперыяй, Польшчай і ВКЛ. З'езд стаў значнай гіст. падзеяй, якая шмат у чым перадвызначыла развіццё міжнар. адносін у 16 ст.

*Літ.*: Baczkowski K. Zjazd wiedeński 1515 r. Warszawa, 1975.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Веркаўскі палац**, загарадная рэзідэнцыя віленскіх біскупаў. Пабудавана ў прыгарадзе Вільні Верках у пач. 17 ст. У 1639 у ім спыняўся кароль Уладзіслаў IV. Пасля таго як Веркі ў 1780 сталі прыватнай уласнасцю біскупа І.Масальскага, па яго заказу арх. Л.*Гуцэвіч* у 1782 пабудаваў у стылі ранняга класіцызму бакавыя афіцыны палаца і заклаў парк у французскім стылі з аранжарэямі. Стары палац быў разабраны, каб пабудаваць на яго фундаментах новы, але намер не ажыццявілі. У сярэдзіне 19 ст. Веркі перайшлі да Вітгенштэйнаў, адна з афіцын павялічана і перабудавана пад палац

**Весялоўскія**, шляхецкі род герба «Агончык» зменены. Вядомы з 16 ст. Паводле К.Нясецкага, карані роду ў Леньчыцкім ваяв. (Польшча), дзе валодалі маёнткам Весялова. Адна з ліній роду атрымала ў 1780 графскі тытул у Аўстрыі, але згасла ў 1867. Найб. вядомыя:

Пётр (?—1556), абозны каронны з 1546, стараста мсцібаўскі і мяцельскі.

Бальцэр (?—да 27.2.1600), падстараста ваўкавыскі ў 1588—89 (пакінуў пасаду паводле дэкрэта Трыбунала ВКЛ), войт ваўкавыскі з 1592.

Пётр (?—пасля 10.9.1619), сын Пятра. Каралеўскі сакратар, падскарбі надворны ВКЛ у 1590—98, маршалак надворны ВКЛ у 1598—1615, маршалак вялікі ВКЛ з 1615; стараста тыкоцінскі, ковенскі з 1592. Адзін з 6 прадстаўнікоў ад шляхецкага стану на канвакацыйным сойме 1573. Фундатар касцёла ў Беластоку.

Крыштоф (?—19.4.1637), сын Пятра. Падстолі ВКЛ у 1600—04, стольнік

ВКЛ у 1604—20, крайчы ВКЛ у 1620—22, маршалак надворны ВКЛ у 1622—35, маршалак вялікі ВКЛ з 1635; цівун віленскі з 1610, староста мельніцкі, тыкоцінскі, суражскі, гараднічы гарадзенскі з 1623, адміністратар Гарадзенскай эканоміі, лясніычы навагародскі (?); маршалак соймаў 1609 і 1618. Удзельнічаў у выправе ў Швецыю ў 1598, у час якой трапіў у караблекрушэнне. Актыўна падтрымаў Жыгімонта III у час *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09*. На сойме 1620



Да арт. **Весялоўскія**.
К.Весялоўскі. 1620—30-я г.

прызначаны камісарам па размежаванні Падляшскага і Берасцейскага ваяводства. Удзельнічаў у войнах з Маскоўскай дзяржавай, Швецыяй і Турцыяй. Фундаваў касцёлы ў Дамброве, Хадарове, Квасаве, Завадах, Луннай, кляштар брыгітак у Гародні, шпіталь для жаўнераў у Тыкоціне, які ў 1633 перадаў у дар Рэчы Паспалітай (да шпіталя прыпісаў в. Далістава ў Падляшскім ваяв.).

Мікалай (?—19.10.1634), сын Пятра. Кухмістр ВКЛ у 1611—23, стольнік ВКЛ у 1623—26, крайчы ВКЛ у 1626—30, падчашы ВКЛ у 1630—33, кашталян жамойцкі з 1633; староста дзісенскі з 1606 і ковенскі з 1621.

*Літ.*: Niesiecki K. Herbarz Polski. T. 9. Lipsk, 1842; Dunin-Borkowski J.S. Rocznik szlachty polskiej. Lwów, 1881; Kojałowicz W. Herbarz rycerstwa W. X. Litewskiego, tak zwany Compendium. Kraków, 1897; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII w.: Spisy. T. 10—11. Kórnik, 1992—94; Радаман А. Да пытання аб прызначэннях палякаў на дзяржаўныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім у канцы XVI ст. // На шляхах да ўзаемаразумення. Мн., 2000; Яго ж. Справа аб парушэнні ваўкавыскім старостай Крыштафам Монвідам Дарагастайскім парадку ўступлення на пасаду і прынцыпаў прызначэння ўраднікаў гродскага суда і яе адлюстраванне ў дакументах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі // Архіварыус. Мн., 2004. Вып. 2.

*Андрэй Радаман.*

**Ветка** (цяпер горад, цэнтр Веткаўскага раёна Гомельскай вобл., Беларусь), слабада ў Рэчыцкім пав. Менскага ваяв, на р. Сож, цэнтр расійскіх стараабраднікаў у ВКЛ. Засн. стараабраднікамі ў 1685 ва ўладаннях старасты мазырскага К.Халецкага. Першымі пасяленцамі былі раскольнікі, якіх прывялі сюды папы Кузьма з Масквы і Стафан з Бялёва. У 1695 асвячона першая ў ВКЛ стараабрадніцкая царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы, пачалі будавацца стараабрадніцкія манастыры. Перасяленцы атрымалі каралеўскую грамату, якая гарантавала ім рэліг. незалежнасць і падатковыя льготы. У канцы 17—пач. 18 ст. сфарміравалася веткаўская школа іканапісу, афармлення рукапіснай кнігі, склалася самабытная школа разьбы. В. стала буйным гандлёвым і рамесным цэнтрам. З 1733 В. — рэзідэнцыя епіскапа Епіфанія, што спрыяла яе аўтарытэту сярод рас. раскольнікаў. У 1735 адбылося «першае выгнанне» стараабраднікаў: рас. армія перайшла мяжу ВКЛ і разбурыла В. з навакольнымі слабодамі, у Расію вывезена каля 14 тыс. чалавек. У хуткім часе, пры матэрыяльнай дапамозе аднаверцаў з-за мяжы, В. была адноўлена. У 1758 стала дзейнічаць Пакроўская царква, побач пабудаваны манастыры. У 1764 рас. армія знішчыла В. і 15 інш. слабод, у выніку «другога выгнання» В. назаўсёды страціла сваё значэнне як цэнтр расколу. У 2-й пал. 18 ст. В. ператварылася ў гандлёва-прамысловае мястэчка. У 1772 у В. 15 тыдняў жыў Е.Пугачоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Лилеев М.И. Из истории раскола на Ветке и в Стародубье. XVII—XVIII вв. Вып. 1. Киев, 1895; Короткая Г.П., Прокошина Е.С., Чудникова А.А. Старообрядчество в Беларуси. Мн., 1992. Рогалев А.Ф. От Гомелюка до Гомеля: Городская старина в фактах, именах, лицах. Гомель, 1993.

*Марына Асіпкова.*

**Вецер** Васіль (?—26.2.1744), адзін з кіраўнікоў сялянскага антыфеад. руху і *Крычаўскага паўстання 1743—44*. Прыгонны селянін шляхціца Смаленскага пав. Карповіча. Уцёк ад свайго пана і пасяліўся ў в. Царковішча Крычаўскага староства, дзе выбраны сялянамі войтам. У час паўстання 1743—44 у бітве паўстанцаў з войскам Г.Ф.Радзівіла паблізу в. Царковішча 26—27.1.1744 у ліку 176 актыўных удзельнікаў паўстання трапіў у палон. 22.2.1744 суд, які адбыўся ў Крычаве ў прысутнасці бурмістраў, радцаў і лаўнікаў, прыгаварыў 16 кіраўнікоў паўстання да пакарання смерцю. В. быў пасаджаны на кол.

*Літ.*: Мелешко В.И. Положение и классовая борьба крестьян в Кричевском старостве в конце XVII—первой половине XVIII вв. // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T. 7; Его ж. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982.

*Васіль Мялешка.*

**Вяціны** (польск. Wettinowie, ням. Wettiner), дынастыя ў Германіі і Рэчы Паспалітай. Назва ад замка Вецін на р. Заале. Род вядомы з 10 ст., з 1089 маркграфы Мейсена, з 1264 ландграфы Цюрынгіі, з 1423 герцагі Саксен-Вітэнберга і курфюрсты. Каралямі польскімі і вял. князямі літоўскімі былі *Аўгуст II* Моцны [1697—1706, 1709—33] і яго сын *Аўгуст III* [1733—63]; адначасова былі саксонскімі курфюрстамі. У Рэчы Паспалітай іх звалі Сасамі («саксонцамі»).

**«Вечны мір» 1686**, дагавор Расіі з Рэччу Паспалітай, падпісаны 6 мая ў Маскве. Пасля *Андросаўскага перамір'я 1667* маскоўская дыпламатыя спрабавала стварыць шырокую антытурэцкую кааліцыю, але гэта доўгі час не прыносіла поспеху. У 1676 Рэч Паспалітая падпісала з Турцыяй Жураўскі дагавор. Пазней як адну з умоў свайго ўваходжання ў антытурэцкі блок Рэч Паспалітая выстаўляла патрабаванне вярнуць сабе Кіеў і Смаленск. Аўстрыю стрымлівала пагроза вайны з Францыяй, якая падтрымлівала Турцыю, а ў 1681 і сама Расія падпісала Бахчысарайскае пагадненне аб 20-гадовым перамір'і з Турцыяй і Крымам. Перад пагрозай турэцкай агрэсіі польскі кароль Ян III Сабескі таксама спрабаваў стварыць кааліцыю супраць Турцыі. Ён



пайшоў на саюз з Аўстрыяй. У 1683 дасягнута пагадненне паміж Венай і Варшавай, дзякуючы гэтаму агульнымі сіламі ўдалося разграміць асманскую армію ў *Венскай бітве 1683*. Аднак рознагалоссі ў тэрытарыяльных пытаннях на Балканах прымусілі Яна III Сабескага шукаць саюзнікаў сярод такіх краін, як Малдавія, Валахія, Персія, Егіпет і інш. На саюз з Расіяй Рэч Паспалітая згаджалася пайсці толькі без заключэння «вечнага» міру, але якраз апошняга прынцыпова дамагалася Масква. Таму Варшава адхіляла прапановы Масквы па стварэнні антытурэцкага блока. Толькі пасля таго, як у 1685 высветлілася, што Рэч Паспалітую адмовілася падтрымліваць Аўстрыя, не падпісала пагаднення Францыя, а Крым спыніў самастойныя адносіны з Варшавай, кароль пайшоў на перагаворы з Расіяй. У студз. 1686 у Маскву прыехала «вял. пасольства» ваяводы пазнанскага К.Гжымултоўскага, канцлера ВКЛ М.А.Агінскага, падстолія кароннага А.Прымскага і палкоўніка Я.Патоцкага, якое пачало перагаворы з прадстаўнікамі царскага ўрада баярамі І.В.Бутурліным, В.В.Галіцыным, Б.П.Шарамецевым. Абодва бакі адначасова накіравалі сваіх паслоў у Турцыю. Спачатку сустрэчы праходзілі ў выключна напружанай атмасферы, але пасля таго, як стала вядома пра пагадненне, падпісанае ў сак. 1686 паміж Аўстрыяй, Брандэнбургам і Швецыяй, сакрэтныя артыкулы якога абавязвалі гэтыя краіны ахоўваць канстытуцыю магнацка-шляхецкай рэспублікі ў нязменным выглядзе і блакіраваць усе пераўтварэнні Яна III Сабескага, перагаворы пайшлі хутчэй. 26.4(6.5).1686 падпісана пагадненне аб «вечным міры» і сумесных дзеяннях супраць Турцыі і Крыма. Рэч Паспалітая канчаткова прызнала граніцы, вызначаныя Андросаўскім трактатам. Сотні тысяч палонных, вывезеныя каштоўнасці, званы і зброя — усё «навечна» лічылася ўласнасцю Расіі. Дзевяты артыкул пагаднення, які дазваляў Маскве апекавацца праваслаўнымі, падрываў суверэнітэт Рэчы Паспалітай. Дагавор стаў важнейшай падзеяй міжнар. жыцця краін Цэнтр. і Усх. Еўропы, якая вызначыла новыя адносіны паміж Рэччу Паспалітай, Расіяй, імперыяй Габсбургаў і Венецыяй. Гэта быў акт дыпламат. паражэння Рэчы Паспалітай, акт канчатковага пераразмеркавання сіл, які замацаваў Расію ў ролі наймагутнейшай дзяржавы Цэнтр. і Усх. Еўропы.

*Літ.*: Греков И.Б. Вечный мир 1686 г. // Советское славяноведение. 1987. № 1; Его ж. Международное значение договора 1686 г. между Россией и Речью Посполитой // Przemiany w Polsce, Rosji, na Ukrainie, Białorusi i Litwie (druga połowa XVII—pierwsza połowa XVIII w.). Wrocław etc., 1991; Wójcik Z. Jan Sobieski, 1629—1696. Warszawa, 1994.

***Генадзь Сагановіч.***

**«Вечны трактат» 1768**, гл. *Дагавор 1768*.

**вёска**, невялікае паселішча, жыхары якога займаліся пераважна сельскай гаспадаркай; асн. тып паселішча ў ВКЛ. У функцыянальных адносінах В. супрацьпастаўлялася *мястэчку*, якое было месцам правядзення лакальнага гандлю і мела большую колькасць рамеснікаў, і *гораду* — значнаму населенаму пункту з развітым рамяством і гандлем. Асн. тэрмінам, які абазначаў В. ў ВКЛ, было слова «сяло», зрэдку ўжываўся тэрмін «весь». Невял. сяло называлася сяльцо, прыселак. У значэнні «населены пункт» маглі ўжывацца тэрміны «пагост», «след», «служба», «дворышча», «зямля», «селішча». У Літве сельскія паселішчы называліся «каймас», «вешэ», «соджус», «пакеміс», «папіліс», «венсядзіс». В., якія ўзнікалі на новааселеных землях і насельніцтва якіх было часова вызвалена ад павіннасцей, атрымлівалі назву «воля», «волька», «слабада».

У 14—16 ст. пераважалі невялікія, не болей за 20 двароў В. Некат. з іх мелі па 1—3 двары. У асобных месцах існавалі вял. В., напр., у 1560 у Магілёўскай вол. былі В. па 100 і болей двароў. Аднак часта бывала, што буйную В. складалі раскіданыя на многія кіламетры асобныя двары і гнёзды двароў, якія, па сутнасці, былі самастойнымі В. Гасп. асваеннем да 16 ст. былі ўжо ахоплены не толькі даліны рэк, але і водападзелы, дзе ўзнікалі малыя В. Паводле падлікаў па 2035 сельскіх паселішчаў, размешчаных у 16 паветах Беларусі, у канцы 16—1-й пал. 17 ст. ў 554 паселішчах жыло менш за 10 сям'яў у кожным, у 766 было па 11—30 сем'яў, у 366 — па 31—50, у 349 — больш за 50 сем'яў.

З правядзеннем у 16 ст. *валочнай памеры* пачаўся працэс прымусовага ўзбуйнення В. Адміністрацыя дзярж. і прыватных уладанняў бачыла ў ссяленні ў адну В. асобных двароў сродак паляпшэння агракультуры і меру для ўзмацнення паліцэйскага нагляду над сялянствам. *«Устава на валокі» 1557* прадугледжвала В. з вулічнай планіроўкай, пры якой хаты з клецямі і хлявамі стаялі на адным баку вуліцы, а астатнія гасп. пабудовы — на другім. Пабудова такіх В. была магчыма на вял. адкрытых прасторах, а на забалочаных і моцнаперасечаных мясцовасцях працягвалі існаваць В. з бессістэмнай або радавой забудовай. Згодна з уставай 1557 ворыва падзялялася на 3 палі, кожнае з якіх мела свае межы («сцены»). Землі за гэтымі межамі — *засценкі* — здаваліся ў арэнду дробнай шляхце, якая ставіла там свае двары. Першапачаткова ў засценках было па 1—2 двары, пасля іх колькасць павялічваецца. На мяжы 18—19 ст. у Койданаўскім графстве былі засценкі з 10—16 і нават 20 дварамі. У 2-й пал. 16 ст. з'явіліся *ваколіцы* — паселішчы дробнай шляхты, якая не мела прыгонных і сама займалася сельскай гаспадаркай. Да наступнага тыпу адносіліся розныя аднадворныя і маладворныя сельскія паселішчы. Сярод іх былі двары арандатараў, леснікоў, млынароў і інш. Своеасаблівым відам сельскіх паселішчаў былі панскія *двары* (дварцы) — цэнтры іх маёнткаў, дзе, акрамя панскага жылля, былі сядзібы панскіх слуг і сялян. З развіццём прыгонніцтва панскія двары трансфармаваліся ў *фальваркі*.

Сял. сядзібы ў дакументах звычайна называюцца дварамі, радзей сяліцьбамі, дворышчамі. Двор бел. селяніна складаўся звычайна з хаты, клеці (свірана), хлява (абора), гумна (стадолы, клуні), адрыны (пуні) і інш. Вакол сядзіб узводзілася загарадзь (плот, тын). Панскія сядзібы мелі большую колькасць гасп. пабудоў, сярод іх былі вазоўні, сырніцы, скарбчыкі і інш. У В. маглі быць рудня, гута, бровар, кузня, млын, карчма, царква, касцёл.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1—3. СПб.; Варшава, 1897—98; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975; Шаблюк В.У. Сельскія паселішчы Верхняга Панямоння XIV—XVIII стст. Мн., 1996; Гісторыя сялянства Беларусі. Т. 1. Мн., 1997.

***Валерый Пазднякоў,***
***Валерый Шаблюк.***

**Віганд з Марбурга**, нямецкі храніст 14 ст. Герольд пры двары магістра Тэўтонскага ордэна Конрада Валенрода. Аўтар прысвечанай войнам і перамогам крыжакоў хронікі, якая ідэалагічна абгрунтоўвала іх захопніцкую палітыку.



Твор з'яўляецца каштоўнай крыніцай па гісторыі Беларусі 13—14 ст. У ім шмат увагі аддадзена адносінам паміж ордэнам і ВКЛ у 1293—1394, ёсць звесткі пра рыцарскія паходы на землі Беларусі і Літвы, асабліва на Гарадзеншчыну і Берасцейшчыну. Падрабязна апісаны бітва войск ордэна і ВКЛ на р. Стрэва ў 1346, неаднаразовыя паходы рыцараў, пачынаючы з 1363, на Гародню. Асабліва часта наведваўся ў Беларусь камандор з Бальгі Тэадор дэ Эльнер, які ў 1372, 1376 і 1377 спустошыў Камянецкую і Бельскую землі (ням. і польскія каментатары хронікі, якія выдавалі яе ў 19 ст., заблыталі пытанне аб месцазнаходжанні Камянца і Камянецкай зямлі, Бельска і Бельскай зямлі, памылкова змясціўшы іх у раёне Каменкі пад Гародняй і ў Беліцы на Нёмане). Віганд правільна пазначыў размяшчэнне «зямлі дрыгавітаў» на Берасцейшчыне, месцазнаходжанне «замка Нойгартэн» (іншыя хравісты змяшчалі гэты замак каля Коўна). Віганд тлумачыць, што так называўся замак «Нова Гародня», пабудаваны ў 1391 Вітаўтам і магістрам Конрадам Вальродэрам на левым беразе Нёмана, насупраць Гарадзенскага замка (будаўніцтвам кіравалі камандор з Хрыстбурга Вернер Тэцінгер і камандор з Бальгі граф Конрад фон Кібург). Хроніка дае інфармацыю пра аблогу Полацка ў 1381 войскам Скіргайлы і магістра Лівонскага ордэна, пра трагічны штурм Гарадзенскага замка ў 1393 аб'яднанымі войскамі рыцараў з Германіі, Францыі і Галандыі, калі замак пасля 3 сутак адчайнай абароны паў і быў спалены. Пад 1394 апісаны паход ням., французскіх і англійскіх рыцараў на Навагародак, Ліду і Мерач, калі мноства людзей было ўзята ў палон. У гэты ж год быў ажыццёўлены паход крыжакоў на Берасцейскую («дрыгавіцкую») зямлю і збройны напад гарадзенскай дружыны на павіленскія паселішчы рыцараў, якія былі спалены.

*Тв.*: Die Chronik Wigand von Marburg (1293—1394) // Scriptores Rerum Prussicarum. Leipzig, 1863. T. 2.

***Міхась Ткачоў.***

**Вігунт**, В і г а н т (у каталіцтве Аляксандр; каля 1372—28.6.1392), князь кернаўскі і куяўскі. Сын вял. кн. *Альгерда* і цвярской князёўны Ульяны Аляксандраўны. Хрышчэнне паводле каталіцкага абраду прыняў разам са сваім старэйшым братам *Ягайлам* 15.2.1386 у Кракаве. Ужо ў лютым 1387 В. упамінаецца як князь кернаўскі. З гэтага княства 3.5.1388 склаў прысягу на вернасць польскаму каралю Уладзіславу II (Ягайлу). У студз. 1390 В. ажаніўся з Ядвігай, дачкой апольскага кн. Уладзіслава. У пасаг атрымаў Іняўроцлаўскую, Быдгашчскую і Тучнаўскую землі, у валоданне якімі ўступіў у маі 1390. Памёр у Вільні, пахаваны ў Віленскім кафедральным касцёле. Лёс яго жонкі Ядвігі невядомы. Інфармацыя аб іх нашчадках адсутнічае.

*Літ.*: Н а с е в і ч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 127; T ę g o w s k i J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999. S.152—155.

***Аляксей Шаланда.***

**Від** (Wied) Антоній (1500, герцагства Пфальц, Германія—1558), нямецкі картограф, мастак і гравёр. З 1535 жыхар Гданьска. Аўтар карты ўсх. часткі Беларусі і Маскоўскага вял. княства, складзенай у Вільні (гл. *Віда — Ляцкага карта*). У 1545—46 жыў у Вільні, дзе выконваў мастацкія работы на заказ караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста (карціны палявання на зуброў, з адлюстраваннем рыцарскага турніра).

**Віда—Ляцкага карта**, першая вядомая геаграфічная карта, створаная і выдадзеная на тэр. ВКЛ (1-е выд. Антверпен, 1542?; 2-е выд. Вільня, 1555). Паказвае ўсх. раёны Маскоўскай дзяржавы і частку тэр. ВКЛ. Прызначалася для інфармавання зах.-еўрапейскай аўдыторыі пра малавядомую Масковію. Гравёр і картограф А.*Від* разам з аселым у ВКЛ былым акольнічым Васіля III І.Ляцкім (гл. ў арт. *Ляцкія*) працавалі над ёй у 1537—42, скарыстаўшы картаграфічныя матэрыялы, вывезеныя Ляцкім з Масквы ў 1534. Яшчэ да апублікавання Ляцкі рассылаў чарнавыя варыянты карты вядомым еўрапейскім вучоным, у т.л. С.Мюнстэру (1540) і С.*Герберштэйну* (1541). На карту нанесены стратэгічныя замкі памежжа ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы: Веліж, Віцебск, Гомель, Кіеў, Крычаў, Орша, Полацк, Смаленск. На думку М.Ткачова, выявы замкаў добра стасуюцца з археал. і інвентарнымі данымі і зроблены з натуры. Пададзена інфармацыя пра *Аршанскую бітву 1514* з сімвалічным малюнкам. Некалькі дзесяцігоддзяў лічылася адной з самых верагодных карт Масковіі. У 1570 яе пераграваіроўваў Ф.*Хогенберг*, адзін з рэдактараў энцыклапедычнай серыі «Гарады зямнога шара». Карта з'яўляецца найб. раннім помнікам старабел. свецкага друку — тлумачальны тэкст напісаны на старабел. мове з вял. колькасцю паланізмаў. Белая Русь, паводле аўтараў карты, — іншая назва Маскоўскай дзяржавы.

*Літ.*: Карта России Антония Вида // Атлас географических открытий в Сибири и в Северо-Западной Америке XVII—XVIII вв. М., 1964; Z w o l i ń s k i P. Pierwsza drukowana transkrypcja ruskiej cyrylicy na łacinkę // Slavia Orientalis. 1967. Z. 4; Я г о ж. Naistarszy świecki druk białoruski: (Antwerpia 1542) // Там жа. 1968. Z. 3; Б е л ы А. Хроніка *Белай Русі*: нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы. Мн., 2000.

***Алесь Белы.***

**віж**, службовая асоба ў ВКЛ, якая выконвала функцыі публічнага сведкі. Вядомы з 1430 на Усх. Падоллі, пасля ў інш. землях ВКЛ. Прызначаўся намеснікам (ваяводам, старастам), замкавымі ўраднікамі (падстарастам, пісарам) для агляду месца здарэння і афіцыйнага сведчання пра факты правапарушэння. Даследаваў акалічнасці злачынстваў, даваў пра іх заключэнні суду ці сведчыў пэўныя факты. Узнагароду, якую атрымліваў за выкананне сваіх функцый (віжаванае, віжаванне, віжовае) часткова перадаваў намесніку. В. прызначаліся з розных сац. груп (сялян, баяр, мяшчан, шляхты). Упершыню юрыд. статус В. акрэслены Статутам ВКЛ 1529. Аплата гаспадарскіх (велікакняжацкіх) В. складала 1 руб., В. ваяводаў і земскіх маршалкаў — палова рубля, В. дзяржаўцаў — 12 грошаў (пры нявыездзе з горада сума скарачалася напалову). Статут узаконіў наяўнасць пры В. пабочных сведкаў — «людзей добрых, веры годных», што не заўсёды вытрымлівалася. Шляхта ў барацьбе за пашырэнне сваіх правоў імкнулася пераўтварыць В. з элемента велікакняжацкай улады ў інстытут шляхецкага самакіравання і дамагалася памяншэння віжовага. Сойм 1551 рэфармаваў інстытут В. на ўзор *возных* Падляшша. В. павінны былі мець шляхецкае паходжанне, аселасць, прыносілі прысягу, пачалі атрымліваць плату ў памеры 1 грош за мілю шляху (пры нявыездзе з горада віжовае складала 2 грошы). На Украіне рэформа не была праведзена. Скасаванне інстытута В. пачалося з увядзення пасады вознага ў ходзе адм.-тэр. і судовай рэформы 1565—66, са з'яўленнем земскага і гродскага судоў з адпаведнымі штатамі. Пасада В. была яшчэ прадугледжана Статутамі ВКЛ 1566 і 1588, існавала да 1-й пал. 17 ст.



*Літ.*: Zakrzewski A.B. Wiż w prawie litewskim XVI w. // Czasopismo prawno-historyczne. 1985. Z. 2; Поліщук В.В. Свідки у русько-литовському праві до судово-адміністративної реформи 1564—1566 рр. // Молода нація. Київ, 2000. № 1; Його ж. Врядове вижівство в структурі публічно-правових процедур: (на матеріалі луцьких замкових книг 1558—1567 рр.) // Соціум. Київ, 2002. № 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**візіткі**, салезіянкі, манахіні каталіцкага манаскага ордэна Наведвання Божай Маці (лац. Ordo Visitationis Beatae Mariae Virginis, VSM). Першая суполка заснавана Францыскам дэ Сале і Жанай Францыскай дэ Шанталь у 1610 у Сабаудзіі (Італія). У 1618 рымскі папа Павел V падпарадкаваў ордэн «Правілам святога Аўгусціна». Кляштары В. карыстаюцца значнай аўтаноміяй і падначалены мясц. біскупам. В. займаліся наглядам за хворымі і выхаваннем дзяўчат. У Рэч Паспалітую В. запрасіла каралева Марыя Людвіка Ганзага ў 1654 (Варшава). У ВКЛ існаваў *Віленскі кляштар візітак*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Віктар** Садкоўскі [свецкае Васіль Сямёнавіч; 1741?—11(23).11.1803], праваслаўны царкоўны дзеяч. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. З 1758 прэфект Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1768 пасвячоны ў сан іераманаха, чл. Магілёўскай кансісторыі. З 1774 ігумен Тупічэўскага Свята-Духаўскага манастыра ў Мсціславе, з 1775 святар рас. пасольства ў Варшаве. З 1784 архімандрыт слуцкі. З 1785 епіскап пераяслаўскі і барыспальскі, адначасова намеснік мітрапаліта кіеўскага са знаходжаннем у Слуцкім Свята-Троіцкім манастыры. У час служэння В. актывізавалася правасл. царк. жыццё Беларусі: асвячоны храмы ў Слуцку, Мазыры, Асаўцах, закладзена царква ў Капылі, адкрыты шэраг жаночых і мужчынскіх манастыроў, заснавана духоўная семінарыя ў Слуцку. У выніку інтрыг з боку каталіцкага і уніяцкага духавенства ў 1789 В. арыштаваны па абвінавачванні ў падбухторванні вернікаў супраць улад Рэчы Паспалітай як агент рас. ўрада і зняволены ў Нясвіжскі замак. Тут яго прымусілі выступіць з заявай аб лаяльнасці каралеўскай уладзе, аднак яшчэ 3 гады пратрымалі ў турмах Варшавы і Чанстаховы. У вер. 1792 пасля хадайніцтва рас. пасла Я.І.Булгакава В. вызвалены і апраўданы. У сак. 1793 вярнуўся ў Менск. Са стварэннем у крас. 1793 Менскай правасл. епархіі В. стаў яе першым архірэем з тытулам «епіскап менскі, ізяслаўскі і брацлаўскі» (кафедра засталася ў Слуцку). У 1794 выдаў грамату з заклікам да уніятаў вяртацца ў праваслаўе (за няпоўных 6 месяцаў перайшло каля 1,1 млн. вернікаў). З 1795 архіепіскап мінскі і валынскі, архіепіскапская кафедра пераведзена ў Мінск. З мая 1796 архіепіскап чарнігаўскі.

*Літ.*: Шэйкін Г. Мінская епархія // Беларускі праваслаўны каляндар, 1997. Мн., 1996; Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов. Мн., 1999.

***Ігар Аржахоўскі, Валянціна Цяплова.***

**Вілейка** (цяпер горад, цэнтр Вілейскага р-на, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав., на р. Вілія. Узнікла на землях вядомага з 1460 велікакняжацкага маёнтка Куранец (Стары Куранец), які звычайна аддаваўся ва ўладанне магнатам. У 1464 упамінаецца дзяржаўца куранецкі Івашка (Ян) Кучук, маршалак гаспадарскі. У канцы 15 ст. маёнтак падараваны ў вотчыну П.Я.Мантыгірдавічу, а пасля яго смерці адышоў да яго ўдавы Г.А.Гальшанскай. У сярэдзіне 16 ст. валоданне М.Радзівіла Чорнага, які ў 1558 узамен за Куранец атрымаў ад вял. князя інш. маёнткі. У 1558—66 ва ўтрыманні М.Я.Нарушэвіча, з 1567 — у М.З.Сноўскага. У гэты час на тэр. маёнтка недалёка ад яго цэнтра — двара Куранец узнікла мяст. Куранец (з цягам часу яно зрабілася цэнтрам уладання-дзяржавы). З 1567 у мястэчку вядома царква (пазней уніяцкая). З 1588 маёнткам валодаў Л.І.Сапега. У 1617 мястэчка ўпамінаецца з 2 назвамі: Куранец і Вялейка, з 1635 — В. У 1635 Уладзіслаў IV падараваў В. ваяводу смаленскаму А.Я.Гасеўскаму, пазней ім валодалі яго спадчыннікі. У 1667—76 В. належала скарбоваму пісару ВКЛ Я.А.Эйдзятовічу. У 1676 Ян III перадаў яе К.З.Пацу і яго нашчадкам. З 1676 Вілейская дзяржава называецца стараствам. У 1702 вілейскі стараста М.А.Пац зрабіў фундуш на карысць Праабражэнскай царквы. У 1727 Аўгуст II выдаў прывілей на таргі ў В. па нядзелях і на 3 штогадовыя кірмашы. У 1765 у мястэчку 30 дамоў, 126 жыхароў. У 1775 на сродкі Ю.Паца пабудавана новая царква замест старой. У 1789 у В. 32 гаспадары-домаўладальнікі, 9 кутнікаў, 3 яўрэйскія сям'і. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Ефимова Н.А. История Вилейки 15—18 веков // Вілейскі краязнаўчы зборнік. Мн., 2001.

***Валерый Пазднякоў.***

**віленскае барока**, архітэктурна-мастацкі кірунак позняга *барока* ў ВКЛ у 1730—70-я г. Выступае як самабытны маст. феномен у кантэксце агульнаеўрап. мастацтва. В.б. склалася пераважна ў сакральным дойлідстве ВКЛ у сувязі з адбудовай хрысціянскіх храмаў розных канфесій пасля наступстваў Паўн. вайны. Як самастойнае мастацтвазнаўчае паняцце распрацавана ў 1930-я г. гісторыкамі мастацтва Зах. Беларусі П.Багдзевічам, С.Лёранцам, М.Маралёўскім, У.Татаркевічам, Ю.Клосам, якія вызначылі стылявыя характарыстыкі В.б.: маляўнічасць сілуэта, вытанчанасць і вертыкалізм прапорцый, ажурнасць і пластычнасць фасадаў, пышнасць і разнастайнасць аздобы інтэр'ераў, крывалінейнасць абрысаў і прасторы, аптычныя эфекты. Першымі ўзорамі В.б. розныя даследчыкі лічаць перабудовы касцёла св. Якуба і Піліпа ў Вільні (1726) альбо гал. фасада касцёла кармелітаў босых у Глыбокім (1735). Першым аўтэнтычным творам з'яўляецца уніяцкі Сафійскі сабор у Полацку (1738—50). Пасля вял. пажараў у 1737 і 1747 у новым стылі адбудаваны касцёлы св. Яна і св. Казіміра (езуітаў), Св. Духа (дамініканцаў), а таксама касцёлы ордэнаў візітак, бенедыкцінак, місіянераў, брама базыльянскага кляштара Св. Тройцы і інш. ў Вільні пад кіраўніцтвам архітэктара І.К.*Глаўбіца*. Росквіту В.б. спрыяла таксама творчасць архітэктараў Ю.*Фантана*, Л.*Грынцэвіча*, А.Асікевіча, Т.*Жаброўскага*, Г.Лінкевіча, А.*Парака* (касцёлы ў Гародні, Віцебску, Полацку, Менску, Друі, Нясвіжы, Сталавічах, Смалянах, Слоніме, Пажаях), актыўнае мецэнацтва свецкай і царкоўнай іерархіі. Храмы В.б. маглі мець гал. фасады з 2 стромкімі вежамі тэлескапічнай будовы (касцёлы бенедыкцінак і місіянераў у Вільні, дамініканцаў у Валынцах, Васкрасенская царква ў Віцебску), альбо бязвежавыя (касцёл св. Яна ў Вільні, кармелітаў у Гародні, Яўленская царква ў Жыровічах), падобныя на браму, у абодвух выпадках — з пластычнымі фігурнымі франтонамі. Значную ролю ў станаўленні унікальнай архітэктанічнай семантыкі В.б. адыграла шырокае будаўніцтва уніяцкіх храмаў пад патранатам мітрапалітаў Ф.*Грабніцкага* і Л.*Кішкі* (Баруны, Беразвечча, Быцень, Віцебск, Вольна, Жыровічы, Орша, Пачаеў, Полацк, Талачын). Стылістыка В.б. пашырылася ў будаўніцтве правасл. цэркваў (Магілёў),



ратуш (Віцебск, Коўна) і палацаў (Вільня, Гародня, Дзятлава, Нясвіж, Слонім).

*Літ.*: Bohdziewicz P. O istocie i genezie baroku wileńskiego z drugiej i trzeciej czwierci XVIII wieku // Prace i materiały sprawozdawcza Sekcju Historii Sztuki TPN w Wilnie. 1938/39. T. 3; Morelowski M. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia. Wilno, 1940; Lorentz S. Materiały do historii wileńskiej architektury barokowej i rokokowej. Warszawa, 1989; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001.

*Тамара Габрусь.*

**Віленскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 1413—1795. Цэнтр — г. *Вільня*. Утворана паводле *Гарадзельскага прывілея 1413*. У В.в. ўвайшла большая частка зах., цэнтр. і ўсх. земляў Беларусі (воласці і буйныя маёнткі з цэнтрамі Ашмяны, Бабруйск, Барысаў, Браслаў, Быхаў, Глуск, Крычаў, Ліда, Магілёў, Менск, Нясвіж, Прапойск, Рэчыца, Свіслач на Бярэзіне, Узда, Чачэрск, Шацк і інш.), тэр. паўн.-ўсх. літоўскіх земляў (воласці і буйныя маёнткі з цэнтрамі Вількамір, Уцяна, Біржы, Кернава, Свянцяны і інш.). Віленскаму ваяводу ў вайсковых адносінах падпарадкоўваліся намеснік новагародскі, а таксама Слуцкае, Клецкае (да 1521) і Мсціслаўскае (да 1529) княствы, якія таксама фармальна ўваходзілі ў В.в. (фактычна былі аўтаномныя). На У Беларусі В.в. мела цераспалосныя ўчасткі з *Троцкім ваяводствам* у Бабруйскай воласці — «віленскую палавіцу» (г. Бабруйск і 18 сёл). У студз. 1507 са складу В.в. вылучана і ўтворана *Новагародскае ваяводства*. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 утворана *Менскае ваяводства*, у В.в. засталося 5 паветаў (Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі, Лідскі). Харугва В.в. чырвонага колеру з выявай «Пагоні» ў белым полі. Мундзір ваяводства: цёмна-сіні кунтуш, жупан і адвароты ярка-пунсовыя. Пасля 1514 і да 1611, а потым з 1654 на тэр. ваяводства (ад Браслава да Вільні) рассялілася смаленская шляхта, якая мела тут экстэрытарыяльную арганізацыю са Старадубскага і Смаленскага пав. (соймікі збіраліся ў Вільні). Гэта было намінальнае Смаленскае ваяводства. У 1791 утвораны Завілейскі (з цэнтрам у Паставах) і Эйшышскі пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) сойм пераўтварыў Браслаўскі пав. у ваяводства. 20.12.1793 скасавана Смаленскае ваяв. як экстэрытарыяльная адзінка. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) тэр. В.в. ўвайшла ў склад Рас. імперыі.

Ваяводы віленскія: Манівід (Войцех; 1413—24), Гедыгольд (Ежы; 1425—32), Я.Доўгірд (1433—43), Я.Гаштольд (1443—58), Івашка Манівідавіч (1458), Міхаіл Кезгайлавіч (1459—76), Алехна Судзімонтавіч (1477—91), Мікалай Радзівілавіч (1491—1509), М.Радзівіл (1510—21), А.Гаштольд (1522—39), Я.Ю.Глябовіч (1542—49), М.Я.Радзівіл Чорны (1551—65), М.Радзівіл Руды (1566—84), К.Радзівіл Пярун (1584—1603), М.К.Радзівіл Сіротка (1604—16), Я.К.Хадкевіч (1616—21), Л.І.Сапега (1623—33), К.Радзівіл (1633—40), Я.Тышкевіч (1640—42), К.Тышкевіч (1642—52), Я.Радзівіл (1653—55), П.Я.Сапега (1656—65), М.К.Радзівіл (1666—68), Е.К.Глябовіч (1668—69), М.К.Пац (1669—82), К.Я.П.Сапега (1682—1703, 1705—20), Я.А.Вішнявецкі (1704), М.С.Вішнявецкі (1735—44), Л.К.Пацей (1722—30), К.Д.Агінскі (1730—33), М.К.Радзівіл Рыбанька (1744—62), К.С.Радзівіл Пане Каханку (1762—64, 1768—90), М.К.Агінскі (1764—68), М.Г.Радзівіл (1790—95).

Кашталяны віленскія: Мінігайла (1413), Осцік (Хрысціян; 1418—42/43), Кезгайла Валімонтавіч (Міхал; 1445—каля 1450), Пётр (Сенька) Гедыгольдавіч (1451), Судзівой Валімонтавіч (1451—58), Добка Кезгайлавіч (1458), В.Манівід (1461), Радзівіл Осцікавіч (1475—77), Ян Кезгайлавіч (1478—85), А.Ю.Гальшанскі (1493—1511), К.І.Астрожскі (1511—22), С.Я.Кезгайла (1522—27), Ю.Радзівіл (1527—41), Р.Р.Осцік (1544—57), Г.А.Хадкевіч (1559—61), Р.А.Хадкевіч (1564—72/73), Я.Г.Хадкевіч (1574—79), А.Б.Валовіч (1579—87), Я.С.Кішка (1588—92), П.Пац (1593—95), Г.Ю.Хадкевіч (1595—1617), Я.Радзівіл (1618—20), М.Я.Глябовіч (1621—32), К.Радзівіл (1633), А.У.Радзівіл (1633—36), К.Хадкевіч (1636—42), М.Сапега (1642—44), А.С.Сапега (1644—46), Я.К.Хадкевіч (1646—60), М.К.Радзівіл (1661—66), М.К.Пац (1667—69), К.Завіша (1669—70), М.С.Пац (1670—71), А.Ф.Катовіч (1672—82), Э.Дэнгаф (1683—85), Ю.Б.Слушка (1685—1701), Я.А.Вішнявецкі (1702—03), М.С.Вішнявецкі (1703—06), Л.К.Пацей (1709—22), М.Ф.Чартарыйскі (1722—24), К.Чартарыйскі (1724—41), М.К.Радзівіл Рыбанька (1742—44), М.Ю.Масальскі (1744—68), І.Агінскі (1768—75), М.Г.Радзівіл (1775—90), М.Радзівіл (1790—95).

*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: Spisy. T. 1. Województwo wileńskie, XIV—XVIII wiek / Oprac. U.Jamialjanczyk, H.Lulewicz, A.Rachuba, P.P.Romaniuk. Warszawa, 2003.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Віленскае перамір'е 1656**, пагадненне паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай аб спыненні ваенных дзеянняў і сумеснай барацьбе супраць шведаў, падпісанае 3.11.1656 у маёнтку Немежы пад Вільняй. Паліт. збліжэнне дзяржаў было выклікана ўмяшаннем у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Швецыі і пачаткам супраць яе ваен. дзеянняў рас. арміі. Ініцыятарам аб'яднання сіл і супольнай барацьбы супраць шведаў быў рас. цар Аляксей Міхайлавіч. Перагаворы пачаліся 22, з 26 жн. сустрэчы праходзілі пры пасрэдніцтве аўстрыйскіх дыпламатаў. У рас. дэлегацыю ўваходзілі князі М.І.Адоеўскі, І.І.Лабанаў-Растоўскі, дзякі Г.Дохтураў і Я.Юр'еў. Камісарамі Рэчы Паспалітай былі полацкі ваявода Я.Красінскі, вял. маршалак ВКЛ К.Завіша, віленскі біскуп Я.Даўгяла-Завіша, С.Сарбеўскі і рэферэндар ВКЛ Ц.П.Бжастоўскі. Дамагаючыся замацавання за Масквой усіх захопленых зямель, царскія паслы выкарыстоўвалі подкуп камісараў Рэчы Паспалітай. Аляксей Міхайлавіч праз паслоў прапанаваў сябе на пасад польскага караля. Пасля пэўных кампрамісаў пагадненне ўрэшце было падпісана. Паводле прынятага акта, Рэч Паспалітая і Расія спынялі вайну паміж сабой і аб'ядноўваліся ў антышведскі блок. Войскі абедзвюх дзяржаў павінны былі разам выступіць супраць агульнага непрыяцеля — Швецыі і Брандэнбурга. Забаранялася падпісваць сепаратныя пагадненні з гэтымі краінамі. Рэч Паспалітая згадзілася на бліжэйшым сойме паставіць пытанне аб выбранні Аляксея Міхайлавіча каралём, але пры ўмове, што каранавацца ён зможа толькі пасля смерці польскага караля Яна II Казіміра, а да каранацыі ніякае ўмяшанне ў справы Рэчы Паспалітай не дапускалася. Пагадненне прадугледжвала таксама захаванне правоў і прывілеяў католікаў. Віленскае пагадненне стала значным дыпла-



матычным поспехам абедзвюх дзяржаў, яно пэўным чынам паўплывала на далейшы ход вайны 1654—67. Аднак антышведскі альянс быў нетрывалы і кароткачасовы. І Рэч Паспалітая, і Расія шукалі новых саюзнікаў. Пасля таго, як летам 1658 Варшаўскі сойм адмовіў цару ў праве на выбранне і запатрабаваў аддаць усе захопленыя землі, а новыя перагаворы, якія пачаліся пад Вільняй, зайшлі ў тупік, ваен. дзеянні аднавіліся.

*Літ.*: Галактионов И.В. Из истории русско-польского сближения в 50-х—60-х годах XVII в.: (Андрусовское перемирие 1667 г.). Саратов, 1960; Gawlik M. Projekt unii rosyjsko-polskiej w drugiej połowie XVII wieku // Kwartalnik historyczny. 1909. Z. 1/2; Wójcik Z. Polska i Rosja wobec wspólnego niebezpeczeństwa szwedzkiego w okresie wojny północnej 1655—1660 // Polska w okresie drugiej wojny północnej 1655—1660. Warszawa, 1957. T. 1; Федорук Я. Переговори Речі Посполитої з Москвою і укладання Віленського миру (1654—1656) // Переяславська Рада 1654 року. Київ, 2003.

***Генадзь Сагановіч.***

**Віленска-Радамская унія 1401**, дзяржаўны саюз ВКЛ і Польшчы. Заключэнню уніі папярэднічаў разгром войска Вітаўта ў *бітве на Ворскле 1399* і рост уплыву кн. Свідрыгайлы, які прэтэндаваў на ўладу ў ВКЛ. У гэтых умовах Вітаўт згадзіўся на заключэнне новага дагавора з польскім каралём Уладзіславам II (Ягайлам). Акт, што заклаў асновы новых узаемадачыненняў паміж ВКЛ і Польшчай, Ягайла выдаў у канцы 1400 каля воз. Круды паміж Гародняй і Мераччу (не захаваўся). 18.1.1401 у Вільні Вітаўт выдаў прысяжны акт Ягайлу, які перадаў яму ў пажыццёвае трыманне ВКЛ разам з рус. ўдзельнымі княствамі. Ягайла захаваў тытул вярхоўнага князя літоўскага, а Вітаўт афіцыйна набыў тытул вял. князя літоўскага (фактычна ім быў паводле ўмоў *Востраўскага пагаднення 1392*). Вітаўт стаў пажыццёвым гаспадаром ВКЛ і атрымаў поўную свабоду ў вырашэнні ўнутр. спраў. Пасля яго смерці ВКЛ павінна было перайсці да Ягайлы і яго нашчадкаў. Польскі бок абяцаў, што ў выпадку смерці Ягайлы і згасання яго дынастыі баяры ВКЛ будуць удзельнічаць у выбарах новага агульнага манарха. 18.1.1401 у Вільні біскупы, князі і баяры ВКЛ выдалі акт, у якім абавязаліся не парушаць дагавору паміж Ягайлам і Вітаўтам (да яго было прывешана 40 пячатак). Польскія паны аналагічны акт выдалі 11.3.1401 у Радаме (з 49 пячаткамі). Упершыню унія паміж ВКЛ і Польшчай набыла характар дагавора паміж 2 «паліт. народамі». Упершыню ў вырашэнні дзярж.-прававых спраў ВКЛ з Польскім каралеўствам удзельнічала баярства рус. зямель (з абодвух бакоў). У выніку заключэння В.-Р.у. ВКЛ было адроджана не толькі як тэрытарыяльная адзінка (што адбылося ў 1392), але і як дзярж. ўтварэнне (хоць і падлеглае Польшчы), тым самым адбылося юрыд. аднаўленне дзяржаўнасці ВКЛ.

*Літ.*: Halecki O. Dzieje unii jagiellońskiej. T. 1. Kraków, 1919; Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932.

***Валерый Пазднякоў.***

**Віленская акадэмічная друкарня**, друкарня *Віленскай акадэміі* езуітаў. Існавала ў Вільні ў 1586—1805. Аснову яе склалі шрыфты і інш. друкарская маёмасць *Берасцейскіх друкарань* М.К.Радзівіла Чорнага, якія М.Радзівіл Сіротка перавёз у 1576 у Вільню, а ў 1586 падараваў езуітам. Кіраваў работамі наёмны друкар, наглядаў за дзейнасцю прэфект друкарні — чл. ордэна. Выпускала штогод да 15 выданняў на польскай і лац. мовах: падручнікі, палемічную л-ру, царк. права, жыції святых, тэалагічна-філасофскія творы, у т.л. П.Скаргі, М.Сміглецкага, Я.Альшэўскага, І.Лаёлы. Сярод падручнікаў выданні Арыстоцеля, грэчаская граматыка М.Карвацкага (1725), лат. і літ. граматыкі і слоўнікі. Друкавала таксама і свецкія творы: лібрэта оперы «Выкраданне Гелены» В.Пучытэлі (1636, на італьянскай мове), спеўнік С.Славянчынскага (1648); Статут ВКЛ 1588 (1693); календары (з 1737), якія змяшчалі спісы чыноўнікаў ВКЛ і Польшчы (Кароны), гіст. матэрыялы; газеты і часопісы (з сярэдзіны 18 ст.). Выпускала панегірыкі: «Казанне на пахаванні... Я.С.Алелькавіча» (1593) С.Высоцкага, «Турэцкіх і інфлянцкіх войнаў... аб Яне Каралю Хадкевічу» (1622) Ф.Малькота, «Казанні... з розных гадоў» (1645) Альшэўскага; «Мемарыял несмяротнай памяці Паўлу Яну... і... Казіміру Льву... Сапегам» (1667) Я.Андрайкевіча, «Дарога ўправа да фартуннай вечнасці... Р.Кунасевічу Гімбуту» (1756) Д.Шышкі і інш., напісаныя найчасцей членамі Віленскага і Нясвіжскага калегіумаў. Многія з іх з'яўляюцца каштоўнай крыніцай інфармацыі пра дзеячаў ВКЛ. Выдадзены гіст. творы: «Збор матэрыялаў аб царкоўным стане, што датычыцца Вялікага княства Літоўскага» (1650), «Пра войны 1648 і 1649 гадоў супраць запарожскіх казакаў» (1651), «Радзівілаўскія хронікі з кароткім зместам подзвігаў знакамітага роду князёў Радзівілаў» (1653) А.Каяловіча. Выйшлі: «Гісторыя Інфлянтаў» (1750) Я.А.Гільзена, серыя падручнікаў Ф.Папроцкага па гісторыі Англіі (1758), Курляндыі (1759); «Найбольш значныя войны...» (1763), гісторыя ВКЛ (1760, 1763), падручнік К.Галоўкі «Звесткі па гісторыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага» (1753, 1763, 1771), «Арганізацыя і палажэнні аб Калегіуме Нобіліум Віленскай Акадэміі Т(аварыства)


LITVANICARUM
SOCIETATIS JESU
HISTORIARUM
PROVINCIALIUM
PARS PRIMA
AUCTORE
STANISLAO ROSTOWSKI
EX EADEM
SOCIETATE
ET
PROVINCIA
SACERDOTE.

MDCCLXIX.

VILNÆ
TYPIS S.R.M. & REIPUBLICÆ ACADEMICIS
SOCIETATIS JESU.

Да арт. **Віленская акадэмічная друкарня**. С.Растоўскі. Гісторыя Літоўскай правінцыі Таварыства Ісуса. Ч. 1. Вільня, 1768.

І(сусава)» (1762), «Першая частка гісторыі Літоўскай правінцыі Тав(арыства) Ісусава» (1768) С.Растоўскага. У афармленні выданняў выкарыстоўваліся арнаментальная, геральдычная гравюра, сюжэтныя ілюстрацыі, партрэт. Упершыню ў мастацтве ВКЛ тут сустракаецца кніжны медзярыт (1589). Магчыма, з друкарняй супрацоўнічаў Т.Макоўскі, які гравіраваў тытул і ілюстрацыі да панегірыка св. Казіміру (1610). Дрэварыты пераважна ананімныя. Па майстэрстве



выканання іх узровень саступае медзярытам. У тэхніцы гравюры на метале для друкарні працавалі таксама Ф.Бальцэвіч, Л.Вілац, К.Гётке, Л.Крыштановіч, А. і Л. Тарасевічы, І.Шчырскі і інш. У ілюстрацыях 17—пач. 18 ст. дамінуе барочны стыль. Пасля скасавання ордэна езуітаў друкарняй кіраваў астраномам М.Пачобут-Адляніцкі, з 1804 — адміністратар піярскай друкарні ксёндз Р.Даніловіч. У 1805 універсітэт прадаў друкарню кнігавыдаўцу Ю.Завадскаму.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959. Чепене К., Петраускене И. Издания типографии вильнюсской академии 1576—1805: Библиогр. Вильнюс, 1979.

***Мікола Нікалаеў, Марыя Ткачэнка.***

**Віленская акадэмія,** вышэйшая навучальная ўстанова ў ВКЛ. Заснавана ў Вільні езуітамі як калегіум (адчынены 27.9.1570, каля 160 навучэнцаў). 7.7.1578 і 1.4.1579 кароль Стафан Баторый выдаў прывілеі (30.10.1579 пацверджаныя булай рымскага папы Грыгорыя XIII) на пераўтварэнне калегіума ў вышэйшую школу (акадэмію). 1-ы рэктар — П.*Скарга*. Акрамя калегіума — сярэдняй школы, у акадэміі былі філасофскі (з 1572) і тэалагічны (з 1574) курсы (факультэты). У 1572 было 200 навучэнцаў, у 1596 — больш за 800. У 1655—60 з-за акупацыі рас. войскамі не дзейнічала. Гуманітарны курс калегіума адноўлены ў 1660, філасофскі — у 1662, тэалагічны — у 1666.

Гуманітарны (пачатковы) курс складаўся з 4 класаў граматыкі, сінтаксіса, паэтыкі і рыторыкі. У 18 ст. ўведзена выкладанне франц. і ням. моў, гісторыі і геаграфіі. У 1667 адчынена кафедра музыкі. Філасофскі курс быў 2-гадовым для свецкіх студэнтаў і 3-гадовым для езуітаў. Тут існавалі кафедры грамадскіх навук — матэматыкі і маральнай філасофіі. У 18 ст. перавагу над традыцыйнымі дысцыплінамі (логіка, фізіка, метафізіка) набылі практычныя прадметы: эксперыментальная фізіка, матэматыка, астраномія, архітэктура. У 1752 пачалося выкладанне вышэйшай матэматыкі. Тэалагічны курс быў 4-гадовы, аднак існаваў і скарочаны 2-гадовы. У 1642 заснаваны прававы курс, на якім выкладалася права цывільнае (1642—55, 1667—1773) і царкоўнае. У 1677 адчынена кафедра палітыкі.

В.а. падтрымлівалі каталіцкае духавенства, мясц. магнаты і шляхта. У 1575 М.К.Радзівіл Сіротка перадаў акадэміі друкарню з Берасця. Афіцыйна яна была прынята ў 1585 (гл. *Віленская акадэмічная друкарня*). В.а. мела багатую б-ку. Ёй перадалі свае кнігазборы біскупы В.Пратасевіч, Ю.Радзівіл, Б.Война, М.Пац, А.Валовіч, а таксама кароль Жыгімонт II Аўгуст, магнат К.Л.Сапега і інш. Апошні адыграў вырашальную ролю ў адкрыцці ў акадэміі юрыд. факультэта і ўтрымліваў за свой кошт 4 прафесараў-юрыстаў. У 1753 на сродкі мсціслаўскай кашталянкі Л.Пузыны заснавана астранамічная абсерваторыя. Пры В.а. з самага пачатку існаваў тэатр (спец. тэатральная зала пабудавана ў 1733—44), аптэка (з канца 16 ст. публічная).

Апрача служыцеляў культу В.а. рыхтавала выкладчыкаў для езуіцкіх сярэдніх навуч. устаноў — калегіумаў, якія ў хуткім часе былі ўтвораны амаль ва ўсіх буйных гарадах ВКЛ. Паводле прыблізных падлікаў, з 1583 да 1781 В.а. прысвоіла сваім выпускнікам 4076 навук. ступеняў, у т.л. па філасофіі 3510, па праву 149, па тэалогіі 417. Сярод найб. вядомых выпускнікоў акадэміі А.*Алізароўскі*, А.*Баболя*, Ф.К.М.*Богуш*, К.*Вырвіч*, А.*Каяловіч*, А.С.*Нарушэвіч*, М.К.*Сарбеўскі*, *Сімяон Полацкі*, М.*Сматрыцкі*. У розны час яе выкладчыкамі працавалі Алізароўскі, Ю.*Бака*, Ф.*Багамолец*, А.*Барташэвіч*, К.*Бартольд*, С.Л.*Бізіо*, К.А.*Галоўка*, Б.*Дабшэвіч*, Т.*Жаброўскі*, Ж.Э.*Жылібер*, М.*Карскі*, М.*Карыцкі*, Каяловіч, Ж.*Лаўксмін*, Ф.*Папроцкі*, Я.*Пашакоўскі*, Д.З.*Пільхоўскі*, Сарбеўскі, А.*Скарульскі*, Г.*Страйноўскі*, Г.*Форстэр* і інш.

Пры В.а. існавалі бурсы (канвікты): для багатых на вул. Замкавай (засн. у 1575 віленскі біскуп Пратасевіч), Валерыянаўская (засн. у 1579 Пратасевіч на вул. Бернардзінскай), Амбразіянская для незаможных (засн. у 1602 канонік А.Бейнарт), Корсака (засн. у 1618 суддзя земскі ашмянскі Я.М.Корсак), музычная (засн. у 1651 дэкан Жабінскі, выхоўвала спевакоў для кафедральнага касцёла). Канвікт для незаможных заснаваў у 1740 стольнік лідскі Д.К.Шышка, у 1752 пераўтвораны ў *Віленскі езуіцкі «Калегіум нобіліум»*.

Па ініцыятыве А.Пасевіна рымскі папа Грыгорый XIII 5.2.1583 выдаў булу аб заснаванні пры В.а. Папскай семінарыі (алюмната). Яна была адчынена ў 1583 (афіцыйна ў 1585) і прызначалася ў асноўным «для русінаў і маскавітаў», былі вучні са Швецыі, Фінляндыі, Даніі, Англіі, Германіі. Яе мэтай было пашырэнне каталіцызму ў гэтых краінах праз навучанне моладзі. Вучылася каля 20 студэнтаў. Яны не былі абавязаны прымаць духоўны сан і заставаліся ў асноўным свецкімі асобамі. Пасля 1625 націск рабіўся на падрыхтоўку духавенства. Найб. здольных пасылалі вучыць



**Віленская акадэмія**. Абсерваторыя.



**Віленская акадэмія**. Вялікі дзядзінец.

філасофію і тэалогію непасрэдна ў акадэміі.

Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) В.а. падначалена *Адукацыйнай камісіі*, але выкладаць працягвалі былыя езуіты. З яе вылучана ваяводская сярэдняя школа. У 1781 акадэмія названа Гал. школай ВКЛ. Куратарам яе стаў І.*Храптовіч*, рэктарам — матэматык і астраном М.*Пачобут-Адляніцкі*, які правёў у школе рэформу і надаў адукацыі амаль свецкі характар. Школа мела маральны і фізічны факультэты. На першым выкладаліся гісторыя грэчаскай і рымскай л-ры, права (натуральнае, агульнае, рымскае і беларускае), агульная гісторыя, свяшчэннае пісанне, дагматычная і маральная тэалогія, гісторыя царквы і кананічнае права, красамоўства; на другім — арыфметыка, геаметрыя, вышэйшая матэматыка, астраномія, механіка, фізіка, хімія, прыродазнаўства, медыцына. З Гародні сюды пераведзены і далучаны да Гал. школы мед. школа і інстытут спавівальнага майстэрства, на базе якіх заснаваны мед. факультэт, т.зв. Медыцынскі калегіум. У 1781 пры Гал. школе заснаваны Батанічны сад. Пасля 2-га і 3-га падзелу Рэчы Паспалітай і далучэння зямель ВКЛ да Рас. імперыі Гал. школа падпарадкавана рас. ўраду і з 1796 наз. Гал. Віленскай школай.

Архітэктурны ансамбль В.а. складаўся на працягу стагоддзяў і займаў вял. квартал. Гал. будынак калегіума пабудаваны ў 1611—13. У 1670 пачалося будаўніцтва новага калегіума (этапы 1671, 1677—79, 1681, 1686—90, 1728—36). Будынкі адбудоўваліся пасля пажараў 1737 і 1748. Карпусы В.а. (цяпер іх 13) утвараюць 12 дзядзінцаў. Найб. раннія гатычныя элементы будынкаў адносяцца да 1-й пал. 16 ст. Асн. карпусы 16 ст. ў стылі Рэнесансу (з элементамі маньерызму) маюць адкрытыя аркады і ўтвараюць дзядзінцы Вялікі (Скаргі) і Абсерваторыі. На Вял. дзядзінец выходзяць гал. фасады *Віленскага касцёла Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста*, вежы-званіцы (вышыня 68 м, 1—4-ы ярусы збудаваны ў 1600—10 у стылі рэнесансу, 5-ы ярус узведзены пасля 1737 у стылі барока), корпуса актавай залы (1757—61). Элементы барока маюць 3-я паверхі зах. корпуса дзядзінца Сарбеўскага і карпусы на паўн. і зах. баках Вял. дзядзінца (пасля 1749), астранамічная абсерваторыя (1753—58, арх. Т.Жаброўскі), інтэр'еры залаў Белай і Лялевеля (сярэдзіна 18 ст.). У стылі класіцызму надбудавана абсерваторыя (1782—88, арх. М.Кнакфус), партал Белай залы (1770—73, арх. К.Спампані).

*Літ.*: Vilniaus universiteto istorija. T. 1. 1579—1803. Vilnius, 1976; З а б у л и с Г. Вильнюсский университет в истории Литвы. Вильнюс, 1979; История Вильнюсского университета. Вильнюс, 1979; М а ч ю л и т е - К а с п е р а в и ч е н е А., С а к а л а у с к а с М., С т р а в и н с к а с А. Здания Вильнюсского университета. Вильнюс, 1979; Academia et universitas Vilnensis. Vilnius, 1979; J a n c e v i č i u s A. Vilniaus universitetui — 400. Vilnius, 1979; A short history of Vilnius University. Vilnius, 1979; Studia z dziejów Uniwersytetu Wileńskiego 1579—1979. Kraków, 1979; Vilniaus universitetas: Bibliografija 1940—1977. Vilnius, 1979; Vilniaus universiteto rūmai. Vilnius, 1979; B a r a n o w s k i H. Uniwersytet Wileński, 1579—1939: Bibliografia za lata 1945—1982. Wrocław etc., 1983; P i e c h n i k L. Dzieje Akademii Wileńskiej. T. 1—4. Rzym, 1984—90; P a s z e n d a J. Zabudowa akademii wileńskiej w XVI—XVIII wieku // Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. Kraków, 1999. T. 1.

***Валерый Пазднякоў.***



**Віленская акадэмія**. Папская семінарыя (алюмнат).

**Віленская базыльянская друкарня**, Віленская Троіцкая друкарня. Існавала пры *Віленскім Троіцкім манастыры* ў 17—пач. 19 ст. Засн. на базе *Віленскай друкарні Мамонічаў*, якую пасля 1624 Л.Мамоніч перадаў ордэну. Мела некалькі варштатаў і наборных шрыфтоў, што дазваляла выдаваць кнігі на слав., польскай, лац. і французскай мовах. Першая вядомая кніга друкарні — «Катэхізіс», датаваная 1628. У 1692 спыніла сваю дзейнасць, зноў аднавіла пасля 1760. Выпускала богаслужэбную і тэалагічную літаратуру, а таксама панегірыкі і падручнікі: «Буквар славянскай мовы»

(1767, 1782), «Буквар польскай мовы» (1783), «Жыціі святых» К.Масіні ў 13 т. (закончана ў 1786), «Лексікон геаграфічны» Г.Карповіча (1766), «Гісторыя Усходніх Індый» Т.Падлескага (1776) і інш. У канцы 18 ст. выдавала паэзію, мастацкую прозу, драматычныя творы, выконвала заказы віленскіх бернардзінцаў і дамініканцаў. Аздоба кніг складаецца з арнаментальнай гравюры і заставак, канцовак, ініцыялаў, сюжэтных ілюстрацый рэліг. тэматыкі, геагр. карт. Выявы Багародзіцы з дзіцем, Яфрэма Сірына, цара Давіда, выкананыя ў канцы 18 ст., адрозніваюцца ад гравюр 17 ст., якія мелі эмблематычны характар. Для друкарні працаваў гравёр Л.Тарасевіч, які зрабіў для «Служэбніка» (Вільня, 1692; Супрасль, 1695) тытульны аркуш, партрэт К.С.Радзівіла і Укрыжаванне.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986.

***Мікола Нікалаеў, Марыя Ткачэнка.***

**Віленская брацкая друкарня**, Віленская Святадухаўская друкарня. Існавала пры *Віленскім Святадухаўскім манастыры* ў 16—18 ст. З'яўлялася выдавецкім прадпрыемствам правасл. царквы ВКЛ. Выдавецкая дзейнасць дазволена прывілеямі Жыгімонта III Вазы ад 1589 і 1592 на друкаванне розных кніг «...па-грэцку, славянску, руску і польску». Выдавала тэксты святога пісання, школьныя падручнікі, богаслужэбныя кнігі, палемічную літаратуру. Першае вядомае выданне выйшла ў 1595. У 1589—1610 выдадзены творы Мялеція Смятрыцкага, Стафана і Лаўрэнція Зізаніяў. Спец. загадам ад 7.5.1610 Жыгімонта III з лагера пад Смаленскам друкарня закрыта. Брацтва перанесла сваю выдавецкую дзейнасць за межы Вільні, арганізаваўшы *Еўінскую друкарню*. Дзейнасць В.б.д. аднавілася ў 1615 і працягвалася да 1749, калі пажар знішчыў манастыр Святога Духа. Для аздобы кніг шырока ўжываліся арнаментальная гравюра і застаўкі, канцоўкі, рамкі з расліннымі і геаметрычнымі матывамі, антрапаморфнымі сюжэтамі. Геральдычная гравюра прадстаўлена гербамі Астрожскіх, Валовічаў, Агінскіх і інш., змяшчалася звычайна на адвароце тытульных аркушаў. Літургічныя выданні мелі сюжэтныя ілюстрацыі з выявамі прарокаў, апосталаў, айцоў царквы. Гравюры евангельскай тэматыкі сустракаюцца ў Трэбніках, Евангеллях. У пачатку дзейнасці друкарні ўжываліся ініцыялы, адціснутыя з дошак Ф.Скарыны. У польскамоўных выданнях пераважаюць гатычныя ініцыялы, за выключэннем асобных літар з заамарфнымі выявамі (звяроў, птушак), выкананых у рэнесансавым стылі. Кніжныя ўпрыгожанні В.б.д. зроблены ў тэхніцы ксілаграфіі.



Да арт. **Віленская брацкая друкарня**. Евангелле. Вільня, 1644.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986.

***Мікола Нікалаеў, Марыя Ткачэнка.***

**Віленская Вострая брама,** Медніцкая брама, брама ў Вільні з паўднёвага боку, частка сістэмы агульнагарадскіх умацаванняў 16—18 ст. Пабудавана паміж 1503 і 1514. Ад брамы пачынаўся Медніцкі гасцінец (адсюль паходзіць першапачатковая назва), а ў горад вяла вул. Вялікая. Паўд. прадмесце Вільні называлася Вострым канцом, таму за брамаю замацавалася назва Вострая (першая згадка такой назвы ў Метрыцы ВКЛ датуецца 1556). Архітэктоніка брамы захавала познагатычныя рысы. У плане прамавугольнік, набліжаны да квадрата (11,2 × 10,8 м). Таўшчыня муроў да 2 м. У ніжнім ярусе па лініі Пн—Пд знаходзіцца брамны праезд з крыжовымі скляпеннямі. Магчыма, брама перабудавана ў апошняй трэці 16 ст., пра што сведчаць круглыя байніцы. Фасад брамы аздоблены маньерыстычным фрызам, з паўд. боку якога маецца выява герба «Пагоня», што трымаюць грыфоны. Магчымы час узвядзення атыка — 1-я чвэрць 17 ст. (пасля пажару 1610?). Атык патынкаваны, арнамент імітуе каванку. Некаторыя іншыя элементы дэкору (нішы, пілястры) адносяцца да раннебарочнага перыяду. Да 1828 на браме захоўвалася размалёўка. У 1671 (ці 1672) з паўн. (гарадскога) боку брамы прыбудавана драўляная капліца, даступная толькі з тэрыторыі прылеглага да гар. муроў кляштара кармелітаў босых. З таго часу



До его млости
пана Василия
Омелиановича

Да арт. **Віленская брацкая друкарня**. Малітвеннік. Вільня, 1702. Герб і пачатак прысвячэння В.Амельяновічу-Пусценскаму.



**Віленская Вострая брама.**

вядзецца дакументаваная гісторыя культу *Вастрабрамскага абраза Маці Божай* — святыні Літвы і Беларусі. У 1711—12 на месцы згарэлай драўлянай капліцы пабудавана мураваная, якая захавалася да нашых дзён. Сюжэтная праграма познабарочнай капліцы прачытваецца як трыумфальная брама для Марыі — Нябесная Брама. Стукавы дэкор і алтар капліцы створаны ў 1785—87, магчыма, мясц. скульптарам К.Ельскім. Сучасная аздоба капліцы адносіцца да 1932, у яе распрацоўцы браў удзел Ф.Рушчыц. З пач. 20 ст. вобраз Вострай брамы стала замацаваўся ў новай бел. літаратуры (М.Багдановіч, А.Зязюля, К.Сваяк) як сімвал непарыўнасці старой і сучаснай культурнай традыцыі, стаў метафарай Вільні.



**Віленская Вострая брама.**
Капліца з абразом Маці Божай.

*Літ.*: Zahorski W. Barbakan ostrobramski i baszta katedralna w Wilnie // Ziemia. 1913. № 48; Jurginis J. Aušros vartai. 2 leid. Vilnius, 1987; Kałamajska-Saeed M. Ostra Brama w Wilnie. Warszawa, 1990; Drėma V. Dingęs Vilnius. Vilnius, 1991. P. 138—139.

***Алег Дзярновіч.***

**Віленская друкарня Зарэцкіх.** Дзейнічала ў канцы 16 ст. ў Вільні. Другая, пасля Скарынаўскай, друкарня ў сталіцы ВКЛ. Уладальнікі друкарні — скарбнік ВКЛ Іван Зарэцкі і віленскі бурмістр Зіновій Зарэцкі. Вядома адна кніга В.д.З. — «Часоўнік», надрукаваны каля



НАЧАЛО ВЕЧЕРНИ
БЛАГОСЛОВИВСѦ ГДИ.
ЦРЮ НБНЫИ, ОУТѢШИ
ТЕЛЮ ДШЕ ИСТИННЫИ
ИЖЕ ВЕЗДѢСЫИ, И ВСѦ ИСПО
ЛНѦѦ. СОКРОВИЩЕ БЛАГИХ
И ЖИЗНИ ПОДАТЕЛЮ. ПРИИ
ДИ И ВСЕЛИСѦ В НЫ И ОЧИСТИ
НЫ ѾВСѦКІѦ СКВЕРНЫ.
И СПСИ БЛЖЕ ДША НАША.

**Віленская друкарня Зарэцкіх.**
Часоўнік. Каля 1571.

1571. Кніга надрукавана ў малым фармаце (у 8-ю долю аркуша), упрыгожаны 6 застаўкамі, ініцыяламі. Некат. тытульныя лісты, ініцыялы, асобныя літары набору падобныя да скарынаўскіх.

*Літ.*: Jaroszewicz-Piereslawcew Z. Druki cyrylickie z oficyn Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI—XVIII wieku. Olsztyn, 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**Віленская друкарня Мамонічаў,** друкарня віленскіх купцоў *Мамонічаў* у канцы 16—пач. 17 ст. На іх сродкі П.*Мсціславец* у сярэдзіне 1570-х г. заснаваў у Вільні друкарню, дзе выдадзены «Часоўнік» (1574—76?), «Евангелле напрастольнае» (1575), «Псалтыр» (1576). Мамонічы імкнуліся поўнасцю

ўзяць кнігадрукаванне ў свае рукі. У выніку канфлікту паміж імі і Мсціслаўцам друкарня ў 1576 спыніла дзейнасць. У 1583 адноўлена К. і Л.Мамонічамі. Фінансавую падтрымку ім аказвалі правасл. шляхціцы Зарэцкія. Пры


ЧАСОСЛОВЕЦЪ.
ИМѢЯЙ НОЩНУЮ И ДНОВНУЮ СЛУЖБУ.
По уставу Стой Съборной Всхо(д)ной и Ап(с)лской Цркве.

В ВИЛНИ.
В Друкарни Леона Мамонича:
Року, ахзі.

**Віленская друкарня Мамонічаў**.
Часасловец. 1617.

падтрымцы падканцлера, пасля канцлера ВКЛ Л.Сапегі ў 1586 і 1593 Мамонічы атрымалі прывілеі, што дазволіла ім часова манапалізаваць выданне кніг на бел. і царк.-слав. мовах. З імі супрацоўнічаў віленскі друкар В.*Гарабурда*, які выпусціў у пач. 1580-х г. некалькі выданняў. В.д.М. улічвала запатрабаванні і культ. традыцыі розных пластоў насельніцтва. Большая частка яе выданняў 16 ст. прызначалася на патрэбы правасл. брацтваў, іх школ, царквы, мяшчанства. Гандл. сувязі Мамонічаў з Украінай, Рус. дзяржавай, Польшчай скарыстоўваліся для кніжнага ўзаемаабмену. Выпускаліся багаслоўскія і літургічныя выданні, кнігі для чытання, публіцыст. творы, падручнікі, у т.л. «Граматыка славянская» (1586), «Дыялектыка» І.Спангенберга (каля 1586), «Буквар» (1590-я г., 1618, 1621). Была адзінай бел. друкарняй, якая выпускала зборнікі заканадаўчых актаў, выданні прававога характару, у т.л. «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1588, на бел. мове; 1614, на польск. мове), «Трыбунал абывацелям Вялікага княства Літоўскага» (1586), канстытуцыі вальных соймаў, шэраг палемічных твораў у абарону уніі, гал. ч. напісаных І.Пацеем. Усяго друкарня да 1623 выпусціла каля 50 кірылічных і 35 выданняў на польск. мове. Кнігі адметныя высокім паліграфічным і мастацка-арнаментальным афармленнем. Тут упершыню выкарыстаны зробленыя Г.*Івановічам* курсіўныя шрыфты, якія ўзнаўлялі графіку канцылярскага пісьма. Выкарыстоўваліся свецкія гравюры (партрэт Жыгімонта III, сойм Рэчы Паспалітай і інш.). Друкарскія матэрыялы В.д.М. пасля 1624 часткова перайшлі ва ўласнасць *Віленскай базыльянскай друкарні*.

*Літ.*: Зернова А.С. Типография Мамоничей в Вильне (XVII в.) // Книга: Исслед. и материалы. 1959. Сб. 1; Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; Шматаў В.Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стст. Мн., 1984; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986.

***Георгій Галенчанка.***

**Віленская духоўная семінарыя**, каталіцкая навучальная ўстанова для падрыхтоўкі святароў для Віленскага біскупства. Засн. ў Вільні ў 1582 біскупам Ю.Радзівілам. Размяшчалася ў палацы віленскіх біскупаў. Для ўтрымання 12 клірыкаў-навучэнцаў Радзівіл перадаў семінарыі маёнтак Вазгелішкі, кароль Стафан Баторый — маёнткі Коўпеніца і Лукі навагародскіх пробашчаў, а ў 1603 В.Ярчэўскі — мяст. Каркожышкі. В.д.с. была аддадзена ў падпарадкаванне езуітам, але агульны нагляд над ёй ажыццяўляў віленскі капітул. Езуіты выкладалі, між іншым, логіку, маральную тэалогію, спевы, абрады. Найб. здольныя навучэнцы адсылаліся ў Віленскую акадэмію. З-за канфліктаў з езуітамі капітул выдаліў іх у 1652 з семінарыі, пасля чаго там выкладалі белыя ксяндзы. У 1733 віленскі біскуп М.Зянковіч для кіравання В.д.с. запрасіў ксяндзоў-камуністаў, дагавор з якімі быў заключаны ў 1739.

***Валерый Пазднякоў.***

**Віленская кальвінісцкая школа**, сярэдняя навучальная ўстанова ў сярэдзіне 1550-х г.—1640. Засн. М.Радзівілам Чорным пры кальвінскім зборы. Складалася з 5 класаў і давала адукацыю на ўзроўні гімназіі. Узначальвалася рэктарам, яго прызначаў кальвінісцкі сінод Літоўскай правінцыі. Акрамя асноў кальвінізму ў школе вывучаліся лац. і стараж.-грэч. мовы, рыторыка, паэтыка, матэматыка, гісторыя, юрыспрудэнцыя. У 1560—70-я г. неаднаразова мяняла месца знаходжання. У 1588 кальвінісцкі сінод прыняў рашэнне аб пераўтварэнні В.к.ш. ў акадэмію, аднак гэта не было ажыццёўлена з-за супраціўлення караля і езуітаў. У 1611 будынак школы спалены вучнямі езуіцкай акадэміі і каталіцкімі фанатыкамі. Каля 1614 школа аднавіла дзейнасць у новым памяшканні. У канцы 16—пач. 17 ст. лічылася лепшай сярод пратэстанцкіх навуч. устаноў ВКЛ. Тут вучыліся дзеці кальвінісцкай шляхты і гараджан з Беларусі, Літвы, Курляндыі, Прусіі. Частка вучняў была на ўтрыманні кальвінісцкай суполкі і жыла ў інтэрнаце. Выхаванцам школы быў І.*Руцкі* (пазней уніяцкі мітрапаліт). У 1630-я г. з-за рэліг. ганенняў і памяншэння матэрыяльнага забеспячэння школа прыйшла ў заняпад. Скасавана разам з Віленскім кальвінскім зборам пастановай сойма.

*Літ.*: Łukaszewicz J. Historya szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskiem. Poznań, 1849. T. 1. S. 375—376; Baliński M. Dawna Akademia Wileńska. Petersburg, 1862. S. 95; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі. Мн., 1968. С. 21—22; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim. Wrocław etc., 1973.

***Сяргей Казуля.***

**Віленская канфедэрацыя 1716**, саюз шляхты ВКЛ, накіраваны супраць палітыкі абсалютызму, што намагаўся весці ў Рэчы Паспалітай кароль Аўгуст II Моцны. Пасля часовай страты трона ў Варшаве ў час *Паўночнай вайны 1700—21* Аўгуст II вярнуўся ў Польшчу, дзе пачаў узмацняць сваю ўладу. Дзеля гэтага ён увёў свае саксонскія войскі на тэр. Рэчы Паспалітай. Утрыманне гэтага войска, увядзенне новых падаткаў, рабаванні саксонскіх салдат выклікалі супраціўленне шляхты, гараджан і сялян. У Тарнагродзе (Польшча) 26.11.1715 была створана *Тарнагродская канфедэрацыя* польскай шляхты, каб са зброяй у руках змагацца супраць каралеўскага абсалютызму, за «залатую шляхецкую вольнасць». Рас. цар Пётр I не хацеў узмацнення ўлады караля, таму падтрымаў канфедэратаў. 23.3.1716 на шляхецкім з'ездзе ў Вільні была ўтворана В.к. Яе маршалкам выбраны ашмянскі харужы Крыштоф Сулістроўскі. В.к. далучылася да Тарнагродскай канфедэрацыі, якая патрабавала вываду саксонскіх войск з Рэчы Паспалітай. Падтрымалі В.к. войска ВКЛ, бел. і літ. магнаты, якія і да гэтага выступалі за абмежаванне ўлады караля. Атрады канфедэратаў змагаліся з каралеўскімі войскамі на тэр. ўсёй Рэчы Паспалі-



тай. Пасрэднікам паміж варожымі бакамі выступіў Пётр I, які прывёў на тэр. Рэчы Паспалітай свае войскі, умацаваўшы такім чынам паліт. пазіцыі Расіі ў Рэчы Паспалітай. Пасля доўгіх, з перапынкамі, перагавораў пад націскам Пятра I і рас. дыпламатаў 3.11.1716 у Варшаве было падпісана пагадненне паміж каралём Аўгустам II і Тарнагродскай і Віленскай канфедэрацыямі. 30.1.1717 гэта пагадненне ратыфікавана і 1.2.1717 зацверджана «нямым соймам» (акрамя маршалка С.Ледухоўскага, які абвяшчаў дакументы, нікому не далі права голасу, каб не сарваць сойм). Пастанова сойма была кампрамісам паміж каралеўскім дваром і канфедэратамі. Саксонскія войскі выводзіліся з Рэчы Паспалітай; улада караля абмяжоўвалася: ён не меў права пачынаць вайну без згоды сойма, арыштоўваць шляхціцаў без судовага прыгавору, раздаваць пасады чужаземцам і асабліва дысідэнтам (некатолікам). Правы шляхты пашыраліся (зацвярджалася права «ліберум вета»), польская армія скарачалася да 18 тыс. чал., а войска ВКЛ да 6 тыс., у той час як арміі суседніх дзяржаў мелі дзесяткі і сотні тыс. салдат. Абмяжоўвалася вайск. ўлада гетманаў. Узмацніўся ўплыў Расіі на ўнутр. справы Рэчы Паспалітай.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Віленская Мікалаеўская царква.** Засн. цвярской князёўнай Ульянай, другой жонкай Альгерда. У 1514 віленскі кашталян, гетман ВКЛ К.Астрожскі атрымаў дазвол ад Жыгімонта I Старога на перабудову царквы. На гравюрах Вільні пач. 17 ст. царква паказана як невял. пабудова з высокім 2-схільным дахам, трохвугольным франтонам і асіметрычнай аднаснагалоўнага фасада вежай. Пажары 1747 і 1748 яе моцна пашкодзілі. Напэўна, тады абваліліся скляпенні асноўнага аб'ёму, захаваліся толькі сотавыя скляпенні ў алтарнай частцы. Памеры і канфігурацыя плана кафалікона сведчаць, што гэта была крыжова-купальная пабудова. У працэсе рамонту асноўны аб'ём перакрыты паўцыліндрычнымі скляпеннямі, перабудавана вежа-званіца, фасадам нададзены рысы барочнай архітэктуры. У сярэдзіне 19 ст. царкву перабудавалі паводле праекта архітэктараў А.І.Разанава і А.І.Чагіна. Царква складаецца з аднанефавага асноўнага аб'ёму, 3-апсіднай алтарнай часткі, шмат'яруснай вежы і капліцы з боку гал. фасада.

*Літ.*: Виноградов А. А. Путеводитель по городу Вильно и его окрестностям. Вильна, 1907; Янкевичене А. Некоторые сооружения Вильнюса XVI в. // Архитектурное наследство. М., 1964. Вып. 17; Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*



Віленская Мікалаеўская царква.

**Віленская піярская друкарня.** Існавала ў Вільні з сярэдзіны 18 ст. прыкладна да 1840. Належала ордэну *піяраў*. Заснавальнік М.*Догель*. Прывілей на адкрыццё друкарні выдаў Аўгуст III у 1754. Першыя выданні выйшлі ў 1758, гэта былі складзеныя Догелем зборнікі дакументаў «Дыпламатычны кодэкс Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага» (т. 1) і «Граніцы Польскага каралеўства і Вял. кн. Літоўскага». Асн. месца сярод прадукцыі друкарні займалі падручнікі для піярскіх школ: польскай і франц. моў, філасофіі (у т.л. «Логіка» і «Выбраныя філасофскія меркаванні» К.Нарбута, 1769, 1771), прыродазнаўчых навук, матэматыкі, педагогікі (у т.л. творы Я.А.Каменскага, 1767—68). У 1774 выйшла «Усеагульная гісторыя» Я.Пучынскага. Выдадзены польскія пераклады прац франц. вучоных П.Саліньяка «Польская гісторыя» (т. 1—5, 1763—67) і Ж.Русе дэ Місі «Гісторыя расійскага народа» (т. 1—5, 1781), кніга Вальтэра «Век Людовіка XIV» (1793). Апублікавана перакладзеная з лац. мовы кніга Ш.Старавольскага «Апісанне Польскага каралеўства часоў Жыгімонта III» (1765). Выдавалася мастацкая літаратура, п'есы для школьнага тэатра (Я.Кушаля, Я.Збікоўскага і інш.). Творы рэліг. тэматыкі складалі каля чвэрці ўсіх выданняў. Сярод іх працы па агіяграфіі, багаслоўі, літургіцы, казанні (М.Ф.Карповіча, Е.Цяпінскага і інш.). Усяго ў 1758—99 друкарня выдала каля 320 кніг.

*Літ.*: Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław; Kraków, 1959; Самайлюк Т.А. Выдавецкая дзейнасць ордэна піяраў у Вільні (1754—1840) // Матэрыялы Другіх кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Рэчы Паспалітай»: (Мінск, 15—16 верасня 2000 г.). Мн., 2002.

*Валерый Пазднякоў.*

**Віленская Пятніцкая царква.** Паводле пісьмовых крыніц гэта самая старажытная правасл. царква Вільні. Яна пабудавана на месцы язычніцкага храма літ. бога весялосці Рагуціса. Заснавала храм віцебская князёўна Марыя Яраслаўна, першая жонка Альгерда. У 1557 і 1610 царкву моцна пашкодзіў пажар. Паводле сведчання нямецкіх купцоў, у 1587 царква мела хоры і была падобна на кіеўскія і наўгародскія храмы. У 1611, калі Жыгімонт III перадаў яе з прылеглымі будынкамі ордэну базыльян, царква мела

Віленская Пятніцкая царква.



моцна пашкоджаны выгляд. У 1655 зноў пацярпела ад пажару і не дзейнічала да 1700—02. Потым яе аднавілі і асвяцілі ў гонар св. Параскевы. У канцы 18 ст. царква зноў апынулася ў непрыдатным стане і доўгі час не рамантавалася. У 19 ст. была ў запусценні. У 1865 рэканструявана паводле праекта М.Чагіна. Аб'ёмную кампазіцыю і тэктанічную структуру таго часу царква захавала да нашых дзён. Помнік уяўляе сабой крыжова-купальную аднаапсідную пабудову. У 1-ю сусв. вайну царква не дзейнічала. У канцы 1920-х г. па ініцыятыве бел. святара А.Каўша кансісторыя перадала царкву Віленскай бел. гімназіі, і ў ёй пачаліся службы на бел. мове. Пасля 2-й сусв. вайны зрабілі толькі вонкавы рамонт і яна была зачынена. У 1981 паводле праекта рэканструкцыі арх. Е.Ложытэ была прыстасавана пад музей малых мастацкіх формаў. Цяпер уласнасць рус. правасл. епархіі.

*Літ*: Виноградов А. А. Путеводитель по городу Вильне и его окрестностям. Вильна, 1908. С. 89—93.; Лявон К. Пятніцкая царква // Наша ніва. 1991. №1; Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII — XVI стст. Мн., 1993. С. 31.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Віленская ратуша**. Відаць, пабудавана ў зах. частцы гандлёвай плошчы пасля атрымання Вільняй магдэбургскага права ў 1387. У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1432. Першапачаткова ратуша была ўзведзена ў гатычным стылі: 2-павярховы будынак з вежай па восі гал. фасада. У аснове вежа мела чацверыковую, а вышэй — васьмерыковую форму. У 1662 на апошнім ярусе ўстаноўлены гарадскі гадзіннік. У час рамонту 1680 гал. і бакавы фасады асноўнага аб'ёму ўпрыгожаны скульптурамі анёлаў. У 1725 стары гадзіннік заменены на новы з пазалочанымі літарамі працы віленскага майстра А.Скачкоўскага. Тады ж на вежу ўзнялі званы, а будынак ратушы накрылі новай дахоўкай. У час пажару Вільні ў 1749 ратуша пашкоджана. Пасяджэнні магістрата былі перанесены ў прыватны дом. У 1769 яна адноўлена паводле праекта віленскага архітэктара І.К.*Глаўбіца*. Аднак у хуткім часе абвалілася вежа і пашкодзіла гал. будынак ратушы. У 1786—89 адноўлена ў стылі класіцызму паводле праекта Л.*Гуцэвіча*. У 1811 пасля скасавання царскім урадам гар. самакіравання ў былой ратушы адкрыты «малы» тэатр. У 1854 тут адбылася прэм'ера оперы С.Манюшкі «Галька». Пазней будынак знаходзіўся ў запусценні і паступова пачаў разбурацца. У 1936—39 зроблена яго рэстаўрацыя паводле праекта С.Нарэмбскага. У пасляваенны час тут быў музей выяўленчага мастацтва. Пасля рамонту 1999 у ратушы размяшчаецца мэрыя Вільнюса.

*Літ.*: Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. Вильна, 1904. С. 244—245; Łopaciński E. Szkice z dziejów ratusza wileńskiego od XVI do XIXw. // Prace i materjały sprawozdawcze sekcji historji sztuki. Wilno, 1938—39. T. 3; Senoji vilniaus rotušė: Vadovas / Sudarė J.Maceika, Vilnius, 1970; Samalavičius S. Vilniaus rotušė. Vilnius, 1981; Jankevičienė A. Vilniaus architektūra. Vilnius, 1985. P. 93; Drėma V. Vilniaus Šv. Onos bažnyčia; Vilniaus katedros rekonstrukcija 1782—1801. Vilnius, 1991.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Віленская рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы з цэнтрам у Вільні. Утворана паводле прывілея вял. князя літоўскага і караля польскага Ягайлы ад 17.2.1387, зацверджана рымскім папам Урбанам VI у 1388. Першапачаткова падпарадкоўвалася непасрэдна папу, з 1418 гнезненскаму арцыбіскупу. Самая вял. рымска-каталіцкая епархія ВКЛ, якая ахоплівала амаль усе парафіі Беларусі і Усх. Літвы (акрамя парафій Берасцейскага ваяв.). Віленскі капітул (калегія духоўных асоб пры біскупе) створаны ў 2-й пал. 1388 пазнанскім біскупам Дабрагостам паводле булы папы Урбана VI са згоды Ягайлы. У яго першапачаткова ўваходзілі пробашч, дэкан, 10 канонікаў; з 1397 — кусташ, з 1345 — архідыякан, з 1522 — прэлат-кантар. Для вырашэння важных пытанняў царкоўнага жыцця біскуп склікаў сіноды (з'езды) духавенства. Першы сінод адбыўся ў канцы 1520 або пач. 1521. Штодзённымі справамі біскупства займаўся двор (біскупская курыя), які падзяляўся на канцылярыю, духоўны суд (кансісторыю) і прыватны двор біскупа (маршалак, падскарбі, кухмістр, ключнік і інш. прыдворныя, а таксама капеланы). За 1387—1430 на аснове фундушаў было створана 27 парафіяльных касцёлаў, за 1431—1500 — 99 касцёлаў, у 1-й пал. 16 ст. — 129 касцёлаў. У сярэдзіне 16 ст. ў 17 паветах ВКЛ дзейнічала 259 парафій, у 1790 — 277, у т.л. 62 у Ашмянскім пав., 49 у Гарадзенскім, 29 у Навагародскім. Парафіі былі аб'яднаны ў дэканаты. У 18 ст. на Беларусі існавалі Аршанскі, Ашмянскі, Бабруйскі, Браслаўскі, Ваўкавыскі, Віцебскі, Вішнеўскі, Гарадзенскі, Лідскі, Менскі, Навагародскі, Радашковіцкі, Ражанскі, Свірскі, Слонімскі і Полацкі дэканаты. У 1387 вял. князь ВКЛ аддаў віленскаму біскупу воласць Таўрогіне на ПнУ сучаснай Літвы, Бакшты на Пн Меншчыны, Дуброўна каля Ліды і некалькі вёсак. Пазней біскупства атрымала Стрэшын на Дняпры (1391), Корань, Ганявічы і Ваўчу (Бягомль) на Пн Меншчыны (1395), воласць Убарць (цяпер Лельчыцы) на Мазыршчыне (1430), Параф'янава каля Докшыц (1434) і інш. маёнткі. У сярэдзіне 16 ст. ўладанні біскупства ўключалі каля 300 вёсак (прыкладна 11,5 тыс. двароў, 60—80 тыс. прыгонных сялян). Яны падзяляліся на сталовыя біскупскія (прыбытак ад іх ішоў на патрэбы біскупа і яго памочніка — суфрагана), сталовыя капітульныя (на ўтрыманне капітула) і прэстыманіяльныя ўладанні (на патрэбы асобных канонікаў капітула). Найб. значнымі біскупскімі маёнткамі на Беларусі былі Ігумен і



**Віленская ратуша**. Малюнак П.Росі. Каля 1763. (Копія М.Янушэвіча. 1835).



Убарць, сталовымі капітульнымі — Горваль і Стрэшын, прэстыманіяльнымі — Бакшты, Корань, Ганявічы, Ваўча, Параф'янава і інш. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 імператрыца Кацярына II выдала ўказ аб далучэнні Віленскага біскупства да Інфлянцкага, што не прызнаў рымскі папа. В.р.-к.е. ў новых межах адноўлена Паўлам I у 1798.

Біскупы віленскія: Андрэй (1388—98), Якуб Пліхта (1398—1407), Мікалай Бяркоўскі (1408—14), Пётр з Варты (1415—21), Мацей з Вільні (1422—53), Мікалай з Дзежкава (1453—67), Ян Ласовіч (1468—81), Андрэй Гасковіч (1481—91), Войцех Табар (1492—1507), Войцех Радзівіл (1508—19), Ян «з князёў літоўскіх» (1519—36), Павел Гальшанскі (1536—55), Валяр'ян Пратасевіч-Шышкоўскі (1555—79), Ежы Радзівіл (1581—91), Бенядзікт Война (1600—15), Астафій Валовіч (1616—30), Абрагам Война (1631—49), Ежы Тышкевіч (1649—56), Ян Даўгяла (Завіша; 1656—61), Ежы Белазор (1662—66), Аляксандр Казімір Сапега (1667—71), Мікалай Стафан Пац (1671—84), Аляксандр Катовіч (1685—86), Канстанцы Казімір Бжастоўскі (1687—1722), Мацей Юзаф Анцута (1722—23), Кароль Пётр Панцажынскі (1724—29), Міхал Ян Зянковіч (1730—62), Ігнацій Якуб Масальскі (1762—94).

*Літ.*: Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь на Белоруссии (1569—1795). Мн., 1971; Kurczewski J. Biskupstwo Wileńskie... Wilno, 1912; Kodeks dyplomatyczny katedry i diecezji Wileńskiej. T. 1 (1387—1507). Kraków, 1948; Ochmański J. Biskupstwo wileńskie w średniowieczu: Ustrój i uposażenie. Poznań, 1972; Przyszłość kultury polaków na Kresach. Tom 2. Białystok; Drohiczyn, 2000.

***Вячаслаў Насевіч.***

**віленская школа гравюры**, мастацкая школа ў графіцы пач. 16—17 ст. Склалася ў Вільні ў 1520-я г., развівалася ў ВКЛ ва ўзаемасувязі з рускім, украінскім, зах.-еўрап. мастацтвам і пад уплывам традыцый аздаблення славянскіх рукапісаў. Тэрмін «В.ш.г.» ў мастацтвазнаўства ўвёў У.В.Стасаў. Школа дала пачатак развіццю гравюры на ўсх.-слав. землях, у т.л. *Куцеінскай школы гравюры, Магілёўскай школы гравюры*. Гал. ролю ў развіцці В.ш.г. адыгралі выданні Ф.*Скарыны*, друкарняў Мамонічаў, Віленскай акадэміі (1576—1773), *Еўінскай друкарні* і інш. Асн. віды гравюры Віленскай школы — дрэварыт (у кірылаўскіх) і медзярыт (у лацінска-польскіх выданнях); развівалася пераважна кніжная гравюра (партрэт, ілюстрацыя, франтыспіс, застаўкі, канцоўкі, геральдычныя выявы, ініцыялы). На гравюры кірылаўскіх выданняў моцна паўплывалі традыцыі бел. жывапісу і драўлянай пластыкі. Вобразна-стылістычныя асновы школы закладзены выданнямі Скарыны (застаўкі і канцоўкі «Малой падарожнай кніжкі», 1522, і «Апостала», 1525) і асабліва П.*Мсціслаўца* («Евангелле напрастольнае», 1575, «Псалтыр», 1576), пад уплывам якога асноўным у афармленні віленска-еўінскіх выданняў сталі фігурны франтыспіс, тытульны ліст («Новы запавет», Еўе, 1611; «Новы запавет з псалтыром», Вільня, 1623). У дрэварытах «Малой падарожнай кніжкі» спалучаюцца рысы позняй готыкі і рэнесансу; у больш позніх творах («Граматыка славенская» Л.Зізанія, 1596, дзе змешчана алегарычная выява граматыкі) пераважаюць рысы рэнесансу. Амаль усе дрэварыты 16 ст. ананімныя, медзярыты 17 ст. падпісаныя. Творы В.ш.г. вызначаюцца жыццёвасцю вобразаў, якая выразна прабіваецца праз канфесіянальную тэматыку, простанароднасцю і каларытнасцю тыпажу, дэкаратыўнасцю, дасканаласцю разнастайных прыёмаў тэхнікі гравіравання. Найб. яскрава асаблівасці В.ш.г. выявіліся ў дрэварытах «Акафістаў» і «Канонаў» (Вільня, 1628), тытульным лісце «Вертаграда душэўнага» (Вільня, 1620) і інш. Аздобы віленскіх выданняў Скарыны выкарыстоўвалі друкары Віленскага Святадухаўскага брацтва да сярэдзіны 17 ст. Разам з арыгіналамі дошак Скарыны яны выкарыстоўвалі і копіі з іх («Новы запавет з псалтыром», Еўе, 1611, «Евангелле вучыцельнае», Еўе, 1616, і інш.). Значнымі маст. якасцямі вылучаюцца тытульныя лісты да выданняў «Трыбунал» (1586), «Статут Вялікага княства Літоўскага» (1588), «Евангелле вучыцельнае» (1616), «Устаў» (1617), «Граматыка» (1621), «Евангелле» (1644). Першыя пастаронкавыя ілюстрацыі з'явіліся ў «Часаслоўцы» (1617), выдадзеным Мамонічамі. Гравюра на медзі атрымала шырокае развіццё ў друкарні Віленскай акадэміі, дзе працавала шмат выхадцаў з Беларусі. Творы акадэмічнай друкарні вылучаліся свецкім характарам і дасканалай тэхнікай выканання, якая давала магчымасць перадаць аб'ёмнасць у выяве рэчаў і перспектыву. Сярод ранніх медзярытаў творы нясвіжскага гравёра Т.*Макоўскага* (тытул «Панегірыка Казіміру», 1610). Значным майстрам медзярыта быў А.Тарасевіч, творы якога (ілюстрацыі да «Разарыума...», 1672) паўплывалі на творчасць інш. майстроў. Сярод гравёраў школы Л.*Тарасевіч*, І.Шчырскі, Л.Кршчановіч, замежныя майстры К.Гётке, Д.Пельцэльд, Т.Шнопс, Л.Вілатц і інш. У Віленскай акадэміі вучыўся вядучы майстар Магілёўскай школы гравюры М.*Вашчанка*.

*Літ.*: Стасов В.В. Разбор рукописного сочинения Д.А.Ровинского «Обозрение русского гравирования на металле и на дереве до 1725 года» // Стасов В.В. Собр. соч. СПб., 1894. Т. 2; Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; Каталог белорусских изданий кирилловского шрифта XVI—XVII вв. Вып. 1—2. Л., 1973—75.

***Віктар Шматаў.***

**Віленскі абраз Маці Божай**, Віленская Адзігітрыя, адна з хрысціянскіх святынь Беларусі. Паводле царк. падання, намаляваны евангелістам Лукой. Далейшы яго шлях нібыта праходзіў праз Царград (Канстанцінопаль), Галіцкую Русь, Маскву. Паводле інш. звестак, абраз прывезла ў Маскву Соф'я Палеалог, калі выходзіла замуж за вял. князя маскоўскага Івана III Васілевіча. Яго дачка Алена прывезла абраз у Вільню, калі ў 1495 выходзіла замуж за вял. князя літоўскага Аляксандра. Пасля смерці Алены абраз быў пастаўлены ў Прачысценскім саборы над яе грабніцай. Ёсць сведчанне, што Іван Грозны хацей вярнуць абраз у Маскву і прапаноўваў Жыгімонту Аўгусту за абраз 50 знатных палонных ВКЛ, але кароль і віленскае духавенства не згадзіліся. У 1701 з-за пагрозы шведскай акупацыі Вільні абраз вывозілі ў Жыровічы. У сярэдзіне 18 ст. абраз перанесены ў Троіцкі базыльянскі манастыр, дзе заставаўся і пасля пераводу манастыра ў праваслаўе. Абраз намаляваны на 4 дошках (сярэднія 2 з кіпарысу, крайнія — бярозавыя). Рэстаўрыраваны ў 1864. Іканаграфічна набліжаецца да Ціхвінскай Маці Божай, якая, паводле царк. падання, прынесена ангеламі на воблаках з Канстанцінопаля ў 1383 на бераг р. Ціхвінка ў Наўгародскай зямлі. У час 1-й сусв. вайны Віленскі абраз вывезены ў Расію, далейшы лёс невядомы.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі артылерыйскі бастыён** («Барбакан», «Бастэя»). Знаходзіўся ў паўд.-ўсх. частцы гарадскога мура, побач з брамаю Субач. На падставе найноўшых



Віленскі артылерыйскі бастыён.

даследаванняў мяркуецца, што быў пабудаваны пад кіраўніцтвам інжынера і картографа Ф.Гетканта каля 1640. Комплекс уключаў уласна паўкруглы бастыён з галерэяй і цагляную прамавугольную ў плане вежу (12 х 9 м), якія злучаны паміж сабой тунэлем. Вежа не мела сутарэнняў і не была атынкаванаю. Тунэль закладзены на глыбіні 8 м, мае



**Віленскі артылерыйскі бастыён**: 1 – вежа; 2 – артылерыйская галерэя; 3 – тунэль.

даўжыню 48 м, шырыню 2,8 м, вышыню 3,5 м, адыходзіць ад цэнтра галерэі. Таўшчыня вонкавага муру галерэі 3,6 м. Галерэя бастыёна акаймоўвае прыродны пагорак вышынёй 3—4 м. Галерэя па краях фланкіравана дзвюма вежачкамі. З вонкавых для горада бакоў бастыён ахоўваецца рэльефам — з поўначы ярам, з Пд і У — ровам глыбінёй 3—4 м. Галерэя была абсталявана 11 баявымі пазіцыямі для гармат — з амбразурай і дымаадводам для кожнай. Меліся таксама адтуліны для святла і вентыляцыі. У бастыёне знаходзілася яшчэ больш за 20 памяшканняў для захоўвання пораху, салетры і інш. Бастыён быў разбураны ў час вайны 1655—61. Аднаўлены ў канцы 17—пач. 18 ст. і падрыхтаваны для вайны са шведамі. На планах Вільні канца 18—1-й пал. 19 ст. бастыён не пазначаўся, а яго тэрыторыя была пераўтворана ў сметнік. У 20 ст. для пазначэння аб'екта выкарыстоўвалася недакладная назва «Барбакан». Археалагічныя даследаванні ў 1965—68 праводзіла І.Ючэнэ. Праект рэстаўрацыі падрыхтаваны ў 1969 арх. Ж.Сіманавічусам. Пасля заканчэння рэстаўрацыйных прац (1987) у бастыёне функцыянуе Музей зброі.

*Літ.*: Jučienė I. Artilerijos bastionas // Lietuvos pilys. Vilnius, 1971; Lietuvos architektūros istorija. T. 1. Vilnius, 1988. P. 215—218; Jučienė I. Vilniaus artilerijos bastionas. Vilnius, 1990; Defensive Fortifications in Lithuania. Vilnius, 2001. P. 92—93.

***Алег Дзярновіч.***

**Віленскі велікакняжацкі палац**, рэзідэнцыя вялікіх князёў ВКЛ у 2-й чвэрці 16—сярэдзіне 17 ст. Гістарычна дакладных звестак пра віленскую рэзідэнцыю вял. князёў у 14—15 ст. у Ніжнім замку (гл. *Віленскія замкі*) няма. У Верхнім замку 3-павярховы гатычны велікакняжацкі палац пабудаваны ў 2-й пал. 14—пач. 15 ст. Магчыма, раней рэзідэнцыйныя функцыі выконваў мураваны будынак, узведзены на мяжы 13—14 ст. каля зах. падножжа Замкавай гары (рэшткі яго сцен з масіўнымі контрфорсамі выяўлены ў 1964). У 15 ст. на гэтым месцы знаходзілася некалькі гатычных пабудоў з балцкай (вендскай) муроўкай, якія ў 1-й пал. 16 ст. былі ўключаны ў новую велікакняжацкую рэзідэнцыю, пабудаваную ў стылі рэнесансу. Палац узведзены ў 1520-х г. па загадзе Жыгімонта І Старога, кошт будаўніцтва склаў 100 тыс. дукатаў. У час пажару 1530, які знішчыў значную частку горада і замка, палац ацалеў. Паводле вынікаў археал. даследаванняў працэс будаўніцтва ўяўляецца наступным чынам: у старых ўсх. і паўд. карпусах нарошчаны 3-і паверх, падоўжаны на Пн ўсх. корпус, пашыраны ўнутр. двор палаца (50 × 50 м), пабудаваны новы паўн. корпус; ва ўнутр. двары знесена галерэя ўсх. корпуса і пабудавана новая, больш шырокая галерэя ў паўд. корпусе. У адрозненне ад папярэдніх гатычных пабудоў вонкавыя муры палаца былі атынкаваны. На З палац прымыкаў да *Віленскага кафедральнага касцёла Станіслава і Уладзіслава*, а з Пд разбіты сад. Такім чынам, рэзідэнцыя ўяўляла сабой прыклад італьянскага palazzo нерэгулярнага тыпу. У 1544—48 у палацы жыў Жыгімонт ІІ Аўгуст, які заснаваў тут вял. бібліятэку і багатую калекцыю твораў мастацтва. 4.10.1562 тут адбылося вяселле сястры караля Кацярыны Ягелонкі і шведскага прынца, герцага Фінляндскага Яна, а таксама рыцарскі турнір у двары палаца з нагоды ўрачыстасці. Пазней у палацы спыняліся і жылі вял. князі Стафан Баторый, Жыгімонт ІІІ Ваза, Уладзіслаў IV Ваза. У час пажару 1610 палац пацяр-



**Віленскі велікакняжацкі палац**
Малюнак П.Росі. 1793.

пеў, але быў адн0ўлены з выкарыстаннем шматкаляровага мармуру і пясчаніку (з гэтага каменю былі выраблены карнізы з гербам дынастыі Вазаў). У 1634 тут адбыліся першыя ў ВКЛ оперныя спектаклі. У выніку войнаў сярэдзіны 17 ст. палац значна пашкоджаны і ўжо не мог выконваць функцыі гаспадарскай рэзідэнцыі. Каля 100 гадоў будынак прастаяў без рамонту. Паводле рашэння сойма Рэчы Паспалітай 1766 прыдатныя для жытла памяшканні ў 2-й пал. 18 ст. здадзены ў арэнду грамадзянам і тут пасялілася 25 сем'яў. Рамонт памяшкання яны рабілі сваім коштам. Менавіта ад таго часу засталося некалькі графічных выяў палаца (у т. л. Ф.Смуглевіча). Рэшткі палаца знішчаны рас. уладамі. У 1799 магістрат Вільні паводле загаду губернатара прадаў будынак купцу з Краменчуга Слуцкаму; у 1800—01 рэшткі палаца разабраны. Захавалася толькі частка ўсх. корпуса, якая ў 19 ст. перабудавана пад 2-павярховы жылы дом. У 1831—37 у час будаўніцтва Віленскай цытадэлі роў глыбінёй 2,4 м перасек тэрыторыю палаца. У 1955—64 літ. археолагі даследавалі тэр. Ніжняга замка, але сістэматычнае вывучэнне самага палаца пачалося ў 1987 Ін-там кансервацыі помнікаў, з 1988 даследаванні працягнуў Ін-т гісторыі Літвы. Працы праводзіліся пад кіраўніцтвам археолага А. Таўтавічуса і архітэктара Н.Кіткаўскаса. У 1989 ускрытая археолагамі частка палаца з усімі архітэктурнымі канструкцыямі накрыта дахам з шклапласту і стала даступнай для наведвальнікаў. У 1990-х г. прынята паліт. рашэнне пра аднаўленне будынка палаца з магчымым прыстасаваннем яго пад рэзідэнцыю прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі. Частка літ. спецыялістаў настойвае на тым, што наяўных гіст. і іканаграфічных даных недастаткова для навуковага аднаўлення палаца. Вывучэнне археал. матэрыялу і праца над праектам рэканструкцыі працягваецца.

*Літ.*: Vilniaus Žemutinės pilies rūmai. T. 1—5. Vilnius, 1989—2003; Kitkauskas N. Vilniaus pilys: statyba ir architektūra. Vilnius, 1989; Drėma V. Dingęs Vilnius. Vilnius, 1991. P. 103—111; Kuncevičius A. Die Kacheln aus dem Palast der Großfürsten in Vilnius // Archälogische Schätze aus Litauen. Duisburg; Regensburg, 1992; The Grand Dukes Palace in Vilnius. Vilnius, 1992; Княжеский дворец в Вильнюсе. Вильнюс, 1995.

***Алег Дзярновіч.***



**Віленскі касцёл Ганны.**

**Віленскі езуіцкі «Калегіум нобіліум»** (лац. афіц. назва Collegium Nobilium et Seminarium Szyszkovianum), элітарная сярэдняя навучальная ўстанова. Брала пачатак з заснаванага ў 1740 стольнікам лідскім Д.К.Шышкам канвікта (бурсы) пры *Віленскай акадэміі* для ўтрымання 7 падлеткаў з незаможнай шляхты. З прыняццем сыноў багатай шляхты канвікт у 1752 пераўтвораны А.Абрамовічам у калегіум са сваім складам выкладчыкаў і незалежнымі ад акадэміі вучэбнымі планамі, уласнай б-кай. З 1765 існаваў незалежна ад акадэміі, яго рэктар падначалены непасрэдна правінцыялу езуітаў. Вучылася каля 50 вучняў, у асноўным з багатых шляхецкіх родаў (Тышкевічаў, Агінскіх, Пузынаў, Валовічаў і інш.). У калегіуме навучалі польскай, лац., ням., франц. мовам, паэтыцы, рыторыцы, арыфметыцы, геаметрыі, трыганаметрыі, астраноміі, гісторыі, геаграфіі, музыцы, танцам, маляванню. Існаваў да 1775, калі на яго месцы Адукацыйная камісія адчыніла канвікт для сыноў незаможнай шляхты.

*Літ.*: Piechnik L. Rzyt oka na powstanie, rozwój i likwidację jezuickiego Collegium Nobilium w Wilnie // Studia z dziejów oświaty i kultury umysłowej w Polsce XVIII—XX w. Wrocław etc., 1977.

***Валерый Пазднякоў.***

**Віленскі касцёл Ганны.** Пабудаваны прыкладна ў 1495—1500 па фундацыі вял. князя Аляксандра. З 1502 храм належаў кангрэгацыі св. Ганны і Марціна, якая аб'ядноўвала католікаў ням. паходжання. У 1581 касцёл перададзены бернардзінцам. У 1560 і 1564 пашкоджаны пажарамі. У працэсе рамонту 1574—82 узведзены зорчатыя скляпенні асноўнага аб'ёму, якія першапачаткова былі толькі ў прэсбітэрыі. У 1613 тэктанічную структуру храма ўмацавалі металічнымі зацяжкамі. У пач. 17 ст. бернардзінцы злучылі сакрыстыю з калідорам кляштара.



**Віленскі касцёл Ганны.** Акно.

У 1747 інтэр'ер касцёла ўпрыгожылі 3 барочныя алтары, выкананыя паводле праекта арх. І.К.*Глаўбіца*. У 19 і 20 ст. неаднаразова рэканструяваўся і рэстаўрыраваўся. Касцёл кампазіцыйна складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму (19 × 8,7 м), прэсбітэрыя з сакрыстыяй, якая прылягае да вімы з паўн. боку, і 3-граннай апсіды.

Пабудаваны ў тэхніцы гатычнай мuроўкі з цэглы. Выкарыстана больш за 30 розных тыпаў прафіляванай цэглы. Неф перакрыты зорчатымі скляпеннямі. Першапачаткова меў бэлькавае ажурнае перакрыццё. Аналагічныя скляпенні ўжыты ў прэсбітэрыі. Бакавыя фасады падзелены контрфорсамі вытанчанай формы на два праслы, якія праразаюць вокны стральчатай формы. Пластыку паўд. фасада ўзбагачае партал бакавога ўвахода. Контрфорсы алтарнай часткі завяршаюцца дэкаратыўнымі слупкамі з пінаклямі. Прасценкі паміж контрфорсамі гэтай часткі таксама займаюць гатычныя вокны. Гал. фасаду ўласціва геаметрычная дакладнасць кампазіцыі, сіметрычнасць, лёгкасць і выключная пластычнасць. Вуглы фасада фланкіруюць 4-вугольныя вытанчанай прапорцыі вежы, якія пераходзяць у васьмігранік. Завяршаюцца дэкаратыўнымі слупкамі з пінаклямі. Самым складаным з'яўляецца дэкор цэнтральнай часткі фасада з дамінуючымі вертыкальнымі чляненнямі. Яны ўтвораны вежачкай, размешчанай па восі сіметрыі, трохвугольнымі эркерамі і ліштвамі. Усе гэтыя дэкаратыўныя элементы аб'ядноўвае вялікая кілепадобная арка.

*Літ.*: Zahorski W. Kościół św. Anny w Wilnie. Wilno, 1905; Jager W. Die St. Annenkirche und die Klosterkirchen von St. Bernardin und St. Michael in Wilna. Wilna, 1918; Reklaitis P. Die gotische St. Annenkirche in Vilnius: Eine Kunstgeschichtliche Frage im Osten // Commentationes Balticae. Bonn, 1955. H. 4; Bartkienė J., Kitkauskas N. Vilniaus Onos bažnyčios restauravimas 1902—1909 ir 1969—1971 metais // Architektūros paminklai. Vilnius, 1975. T. 3; Kaczmarzyk D. Kaplica św. Anny przy kościele bernardynów w Wilnie // Teka Komisji historii sztuki. Warszawa; Poznań; Toruń. 1976. T. 6; Dréma V. Vilniaus Šv. Onos basžnyčia. Vilnius, 1991; Jankevičienė A. Źródła kompozycji i problem autorstwa kościołów Bernardyńskiego i św. Anny w Wilnie // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7, z. 3; Яе ж. Šv. Onos bažnyčia // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*



Падмуркі **Віленскага касцёла Ганны і Барбары**.

**Віленскі касцёл Ганны і Барбары.** Першапачаткова вядомы пад назвай св. Ганны, належаў манахам-францысканцам. У канцы 14—пач. 15 ст. на месцы драўлянага ўзведзены мураваны касцёл — аднанефавая гатычная пабудова (20,5 × 9 м) з прэсбітэрыем, што заканчваўся 3-граннай апсідай. Сцены былі ўмацаваны контрфорсамі (выяўлены ў час археал. даследаванняў 1955—61 А.Таўтавічусам). У 1551 на яго месцы паводле загаду вял. кн. Жыгімонта Аўгуста італьянскім арх. Дж.Чыні пачата будаўніцтва касцёла св. Ганны—Барбары. Аднанефавы будынак (51,5 × 20 м) меў прэсбітэрый выцягнутай формы, з Пн да цэнтр. часткі фасада прымыкала капліца. Гал. фасад меў у плане паўцыркульную форму. Фасады падзялялі на асобныя часткі ўласцівыя позняй готыцы контрфорсы. Пасля смерці Жыгімонта Аўгуста ў 1572 будаўніцтва храма прыпынена. У 1610 пашкоджаны пажарам. Моцна пацярпеў у 1655 ад маскоўскага войска. У 1666 Ян II Казімір дазволіў разабраць помнік на рамонт кафедральнага сабора.

*Літ.*: Śledziewski P. Kościół św. Anny — św. Barbary intra muros castri Vilniensis // Ateneum Wileńskie. 1934. Z. 9; Tautavičius A. Vilnius pilies teritorijos archeologinai kasinėjimai // LTSR valstybinės architektūros paminklai apsaugos inspekcijos metraštis. Vilniaus, 1960, T. 2; Kozakiewiczowa H. Z działalności budowlanej Zygmunta Augusta: (kościół św. Anny — św. Barbary na Dolnym zamku wileńskiem) // Biuletyn historji sztuki. 1968. № 4; Kitkauskas N. Vilniaus pilys: Statyba ir architektūra. Vilnius, 1989. P. 175—179.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Віленскі касцёл Ігнацыя.** Пабудаваны ў 1622—47 пры езуіцкім навіцыяце (адчынены ў 1605), асвячоны ў 1647. Пашкоджаны пажарам 1737, у 1738 адбудаваны. Касцёл — 3-нефавая базіліка з 2 вежамі на гал. фасадзе. У 1738 пастаўлены мураваны алтар для нямецкага брацтва, у 1739 — алтар Маці Божай, у 1740—42 — астатнія бакавыя алтары (майстры М.Шык, Я.Грым, Ф.Прышчынскі). Гал. алтар і разныя ўпрыгожанні выкананы ў 1743—50 А.Дацратам і Прышчынскім. У 1748—50 пад кіраўніцтвам Т.Жаброўскага павышаны бакавыя капліцы і дапрацаваны алтары. Ш.Чаховіч для касцёла намаляваў абраз «Св. Ігнацій». Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 касцёл перададзены духоўнай семінарыі.

**Віленскі касцёл Ігнацыя**.



У 1798 зачынены, разам з інш. пабудовамі прыстасаваны пад казармы, быў значна перароблены. Адбудаваны без веж у 1925—26. У 1985 будынак навіцыята адрэстаўрыраваны.

*Валерый Пазднякоў.*

**Віленскі касцёл Казіміра.** Належаў езуітам. Закладзены ў ходзе ўрачыстасцяў па кананізацыі св. *Казіміра* 4.3.1604. Асн. фундатарамі былі Жыгімонт III Ваза і Л.Сапега. План касцёла прывезены з Рыма, нагляд за будаўніцтвам ажыццяўляў Я.Франкевіч, таленавіты вучань Бернардоні. Ён, разам з правінцыялам П.Бокшаю, кіраваў аздабленнем інтэр'ера і пабудовай закончанага ў 1624 дома прафесаў (кляштара), фундаванага Сапегамі і Гасеўскімі. Касцёл — выдатны помнік ранняга барока. Узведзены да 1609, але неўзабаве пацярпеў ад пажару 1610 і закончаны ў 1616. У плане 3-нефавы крыжова-купальны храм; гал. неф перакрыты паўцыркульным скляпеннем на падпружных арках, з распалубкамі; бакавыя, моцна павужаныя, падзелены на капліцы на ўзор касцёла Іль-Джэзу ў Рыме. Сцены гал. нефа ўмацаваны знадворку эскарпамі, яго вышыня з купалам 58 м. Купал дыяметрам 17 м на скрыжаванні нефа і трансепта ўвенчаны княжацкай каронай. Касцёл гарэў у 1655, 1706 і 1749, пасля апошняга пажару фасады, купал і алтары ў інтэр'еры рэканструяваны арх. Т.*Жаброўскім* у дэкаратыўных формах ракако. Алтарныя карціны Ш.Чаховіча і Ф.Смуглевіча, размалёўкі І.Обста. У 1840 касцёл аддадзены пад правасл. сабор св. Мікалая, у 1864—68 перабудаваны арх. Чагіным, кляштар прыстасаваны пад казармы. У 1917 вернуты каталікам. Пасля рэстаўрацыі ў 1955—57 тут размяшчаўся музей атэізму. 3.3.1991 асвячоны як касцёл.

*Літ.*: Lietuvos vienuolynai vadovas. Vilnius, 1998. P. 341—348; Markauskaitė N. Epitafinės kompozicijos Vilniaus Šv. Kazimiero jėzuitų bažnyčios kriptoje // Menotyra. 2001. № 2.

*Аляксандр Ярашэвіч.*



Віленскі касцёл Казіміра.

**Віленскі касцёл Мікалая.** Засн. ў 1-й пал. 14 ст. ганзейскімі купцамі і рамеснікамі, якіх запрасіў у 1322 вял. кн. Гедзімін. Першапачаткова быў драўляны, у актах Віленскай дыяцэзіі за 1387 адзначана, што касцёл у гэты час быў капліцай, побач з якой знаходзіліся могілкі. Напэўна, у 1382—87 узведзены мураваны будынак на сродкі рыжскага купца Гануля, віленскага намесніка Ягайлы, які падараваў храм з багатымі наданнямі францысканскаму кляштару на Пясках у Вільні. У працэсе рамонту 1514 інтэр'ер храма перакрылі гатычнымі скляпеннямі, а таксама, напэўна, упрыгожылі фрэскамі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 — 67* значна пашкоджаны. Пры аднаўленні павялічаны ў шырыню вокны, для асвятлення паддашка зроблены вокны круглай формы ў зах. франтоне, паменшаны ў вышыню контрфорсы. У 1744 і 1749 касцёл моцна пацярпеў ад пажараў. У час рамонту над уваходам узведзены мураваныя хоры, з паўн. боку да прэсбітэрыя прыбудавана вежа-званіца, першы ярус якой прыстасаваны пад сакрыстыю. У час вайны 1812 войскі Напалеона ператварылі касцёл у склад. У 1819 адноўлены на сродкі прыхаджан. У 1845 царскія ўлады зачынілі францысканскі кляштар і касцёл Мікалая застаўся без дагляду. У 2-й пал. 19 ст. належаў прыходу касцёла св. Яна. У 1895 распрацаваны праект яго перабудовы (арх. Е.Вернер), але быў ажыццёўлены часткова: да паўн. фасада вежы прыбудавана капліца, гзымс і адхоны акон атынкаваны і пабелены. У 1955—56 і 1974 адрамантаваны. У 1988—89 Ін-там рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў праведзена рэканструкцыя храма пад кіраўніцтвам арх. Э.Пірліса. У касцёле доўгі час вёў службу А.Станкевіч. Помнік — 3-нефавае 4-слуповае зальнае збудаванне з кароткім прэсбітэрыем, які заканчваецца шматгранная апсідай. Да паўн. сцяны вімы прымыкае вежа-званіца і капліца. Агульныя памеры 27 × 13 м. Тарцовыя фасады завяршаюцца франтонамі, якія першапачаткова мелі прыступкавую форму. У храм вядуць 3 уваходы: з боку галоўнага і бакавых фасадаў. Сцены ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі, умацаваны контрфорсамі. Асноўная дэкаратыўная аздоба фасадаў — плоскія тынкаваныя стральчатыя і паўцыркульныя нішы. Касцёл — помнік гатычнай архітэктуры з элементамі раманскага стылю, а таксама барока і класіцызму.



Віленскі касцёл Мікалая.

*Літ*: Kamiński M. Kościół św. Mikołaja w Wilnie // Tygodnik illustrowany. 1870. № 136; Zahorski W. Kościół św. Mikolaja w Wilnie // Kwartalnik Litewski. 1910. T. 3; Reklaitis P. Die St. Nikolaikirche in Wilna und ihre Stadtgeschichtlich Bedeuntung // Zeitschrift für Ostforschung. 1959. H. 4; Pyrlys E. Vilniaus šv. Mikalojaus bažnyčios 1989 metų natūros tyrimai // Architektūros paminklai. 1991. № 3; Луцкевіч Л. Касцёл св. Мікалая // Наша ніва. 1991. № 3; Кушнярэвіч А. Касцёл св. Мікалая ў Вільні // Мастацтва. 2003. № 7.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Віленскі касцёл Рафала.** Пабудаваны пры езуіцкім доме 3-й прабацыі (установа, дзе ксяндзы-езуіты адбывалі курсы духоўнасці і езуіцкага права). Дом



**Віленскі касцёл Рафала**.

заснаваны ў 1709, фундатарамі былі пісар земскі віленскі М.Кошчыц, ваявода віленскі К.Я.П.Сапега, польны гетман ВКЛ М.К.Радзівіл. Познабарочны касцёл Рафала, які пачалі будаваць у 1715, а асвяцілі ў 1730 і 1764, — 3-нефавая базіліка з 2 вежамі на гал. фасадзе (яны ўзведзены ў 1751—52). У ім знаходзяцца абразы Ш.Чаховіча «Св. Рафал» (у гал. алтары) і «Св. Станіслаў Костка» (у бакавым алтары). Пасля скасавання ордэна езуітаў (1772) касцёл піярскі, з 1791 парафіяльны. Мураваны будынак дома пабудаваны ў 1730—36, у 1775 перададзены піярам, якія ў 1799 прадалі комплекс уладам. У ім размяшчаліся склады, казармы. У 1869 касцёл вернуты вернікам.

***Валерый Пазднякоў.***

**Віленскі касцёл Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста.** Пабудаваны ў 1387 на сродкі Ягайлы. У 1390 спалены крыжакамі. У канцы 14—1-й чвэрці 15 ст. пабудаваны мураваны касцёл, асвячоны ў 1427 у гонар св. Яна Хрысціцеля і св. Яна Евангеліста. Моцна пацярпеў ад пажараў 1510 і 1530. У час рамонту да крайніх праслаў бакавых фасадаў усх. часткі асноўнага аб'ёму прыбудаваны 2 капліцы, а франтону гал. фасада нададзены формы архітэктуры паўн.-еўрап. Адраджэння. У 1571 вял. кн. Жыгімонт Аўгуст перадаў касцёл езуітам (належаў да 1773), якія пры ім заснавалі калегіум. У апошняй чвэрці 16 ст. яны разабралі прэсбітэрый і павялічылі храм у даўжыню на ўсю шырыню кафалікона ў стылі позняй готыкі. У 1588 на сродкі маршалка ВКЛ А.Радзівіла ў храме ўстаноўлены арган. Паміж 1574 і 1588 на гатычных мурах надбудавана рэнесансавая частка вежы-званіцы. У 1592 па заказе віленскіх цэхаў шаўцоў і рымараў да апорных слупоў прыбудаваны алтары на адмысловых узвышэннях у выглядзе каплічак. У 1610 згарэлі дах касцёла і прылеглая да помніка драўляная забудова, але інтэр'ер храма не пашкоджаны. У 1-й пал. 17 ст. да бакавых фасадаў касцёла прыбудаваны некалькі капліц у стылі ранняга барока. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1655 моцна пацярпеў ад пажару. Пасля вызвалення Вільні ў 1660 касцёл не адноўлены. У 1674 яго скляпенні пад уздзеяннем атмасферных ападкаў абваліліся. У 1696 праведзены невял. рамонт, у 1698 пабудавана новая сакрыстыя. У 1708 у цэнтральным нефе і капліцы св. Станіслава Косткі паклалі падлогу з керамічных плітак. На мяжы 17—18 ст. узведзены капліцы св. Ганны, Добрай Рады, у стылі барока перабудавалі капліцу св. Барбары. У 1731 касцёл адрамантаваны, над уваходам пабудаваны новыя драўляныя хоры, багата аздобленыя разьбой. У 1732 пры рамонце даху перароблены зах. франтон. У 1720—30-я г. пад кіраўніцтвам арх. Расале інтэр'ер храма ўпрыгожаны шматлікімі абразамі і разнымі алтарамі. У 1737 касцёл і калегіум моцна пашкоджаны пажарам. Аднаўленне помніка адбывалася пад кантролем рэктара акадэміі Ю.Садоўскага. Праект рэстаўрацыі распрацаваў віленскі арх. І.К.*Глаўбіц*. Гал. фасад перароблены ў барочным стылі. У 1745 касцёл асвячоны,



**Віленскі касцёл Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста**. Гравюра 1850.



але яго рэканструкцыя працягвалася і пазней. У 1748 пажарам знішчаны дах касцёла. У 1756—58 унутраныя контрфорсы храма размаляваны пад мармур. У 1768 кашталян троцкі Т.Агінскі перабудаваў капліцу Божага цела ў стылі класіцызму паводле праекта мясц. езуіцкага архітэктара ксяндза Г.Лянкевіча. У 1825—28 касцёл часткова рэканструяваны ў стылі класіцызму пад кіраўніцтвам арх. К.Падчашынскага. З інтэр'ера вынеслі 13 прыкалонных алтароў і замест іх на кансолях паставілі скульптуры св. Яна, выкананыя К.Ельскім. У 1839 у касцёле ўстаноўлены арган з Полацка. 9 акон прэсбітэрыя ў 1898 упрыгожаны вітражамі. У канцы 19—пач. 20 ст. ў інтэр'еры касцёла ўстаноўлена некалькі мемарыяльных помнікаў дзярж. і культурным дзеячам: рэктару Віленскай акадэміі І.Страйноўскаму, паэту А.Міцкевічу, кіраўніку паўстання 1794 Т.Касцюшку, кампазітару С.Манюшку. У 1965—78 праведзена рэстаўрацыя ўсяго архітэктурнага комплексу касцёла пад кіраўніцтвам архітэктара Р.Ялавецкаса, гісторыка Т.Дамбраўскайтэ, мастака А.КаліціТэ. Пасля рэстаўрацыі ў храме адкрылі музей прагрэсіўнай навуковай думкі Віленскага ун-та. Аснову храма складае 3-нефавая зальная пабудова (51,4 × 33,8 м), якая з У заканчваецца не традыцыйна выдзеленай алтарнай апсідай, а 3-граннай алтарнай сцяной. Сцены алтарнай часткі і бакавых фасадаў асн. аб'ёму прарэзаны высокімі стральчатымі вокнамі, якія аформлены складанапрафіляванай цэглай. Гал. фасаду ўласціва насычанае аб'ёмнай пластыкай познабарочнае вырашэнне. Звонку сцены касцёла ўмацаваны контрфорсамі (на паўн. фасадзе цалкам захаваўся толькі адзін контрфорс). Сцены прэсбітэрыя і алтарнай часткі ўмацаваны ўнутранымі контрфорсамі. Тарэц даху ўсх. фасада завяршаецца франтонам, якому нададзены крывалінейныя барочныя абрысы. Храм перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Звонку роўнавысокія аб'ёмы асн. часткі і прэсбітэрыя вылучаны больш нізкім дахам алтарнай часткі. Недалёка ад паўд.-зах. вугла храма ўзвышаецца вежа-званіца, якая крыху выступае за лінію гал. фасада. Вежа мае ў плане квадратную форму, шмат'ярусную сіметрычную аб'ёмную кампазіцыю, сцены прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У пластычным афармленні яе фасадаў выкарыстаны вуглавыя пілястры, калонкі, шырокія карнізныя паясы. Вянчае званіцу фігурны дах шлемавіднай формы, выкананы ў стылі барока. Першапачаткова касцёл св. Яна ўяўляў сабой гатычную 3-нефавую 8-слуповую зальную пабудову з аднапраславым прэсбітэрыем і шматграннай алтарнай часткай. У храм можна было трапіць праз дзвярныя праёмы спічастай формы паўднёвага і галоўнага фасадаў. Інтэр'ер асвятляўся праз вертыкальна выцягнутыя вокны спічастай формы.

*Літ.*: Bohdziewicz P. O dwu kościołach gotyckich św. Jana w Wilnie // Roczniki humanistyczne. 1965. Z. 7; Jaloveckas R., Dambrauskaitė T. Buv. Šv. Jono bažnyčios Vilniuje resrauraciniai tyrimai // Architektuūros paminklai. 1972. T. 2; Kasperavečienė A. Vilnius universiteto rūmų stilių raida // Architektūros paminklai. 1984. № 8; Paszenda J. Kościół św. Jana w Wilnie w okresie jezuickiem, 1571—1773 // Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. Kraków, 1999. T. 1; Кушнярэвіч А. Касцёл св. Яна ў Вільні — помнік фарнай готыкі // Бел. гіст. часопіс. 2004. № 1.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Віленскі кафедральны касцёл Станіслава і Уладзіслава.** Некат. даследчыкі рэшткі першапачатковага будынка касцёла датуюць сярэдзінай 13 ст. Відаць, ён пабудаваны ў сярэдзіне—2-й пал. 14 ст. Асн. аб'ём касцёла быў квадратны ў плане, з У да яго прымыкаў выцягнуты прэсбітэрый, які заканчваўся гранёнай апсідай. Да паўн. сцяны вімы была прыбудавана сакрыстыя. Па восі сіметрыі зах. фасада стаяла шмат'ярусная вежа. Сцены асн. аб'ёму былі ўмацаваны контрфорсамі. У інтэр'еры 4 апорныя слупы падзялялі асноўны аб'ём на 3 нефы. Падлога была набрана з рознакаляровых паліваных керамічных плітак, многія з іх былі ўпрыгожаны арнаментам, характэрным для раманскага мастацтва. Рэшткі сцен храма, выяўленыя ў сутарэннях дзеючага касцёла, складзены з палявых валуноў, якія былі ўмураваны амаль у гарызантальным парадку без цагляных праслоек. У 1387—88 над рэшткамі разбуранага касцёла (моцна пашкоджаны ў час пажару) узведзены кафедральны касцёл пад назвай св. Станіслава і св. Уладзіслава. Звонку яго сцены арнаментаваны тычкамі перапаленай цэглы, інтэр'еры храма ўпрыгожвалі фрэскі. Касцёл быў моцна пашкоджаны пажарам 1419. Паводле загаду вял. кн. Вітаўта, у сувязі з плануемай каранацыяй, быў узведзены вялікі 3-нефавы гатычны касцёл памерамі 62 × 28 м. У гэтым касцёле Вітаўт завяшчаў сябе пахаваць пасля смерці, што і было зроблена ў 1430. Архітэктурным прататыпам гатага помніка з'яўляецца кафедральны касцёл у Фрамбарку. У адхонах і пераплётах вокнаў выкарыстана цэгла, тарцы якой былі ўпрыгожаны раслінным арнаментам. Касцёл меў аднолькавую вышыню асноўнага аб'ёму і прэсбітэрыя. У кутнія часткі былі ўкампанаваны 4 вежы. Гал. фасад завяршаўся трохвугольным франтонам. Звонку сцены храма ўмацоўвалі масіўныя контрфорсы, паміж якімі ў 15—пач. 16 ст. было пабудавана больш за 10 капліц, частка з якіх пасля шматлікіх рэканструкцый захавалася. Пабудаваная ў пачатку 15 ст. цэнтральная 3-нефавая частка складае аснову аб'ёмнай кампазіцыі сучаснага помніка. У 1522 пачаты яго рамонт і абарончай вежы, што стаяла побач з замкавымі мурамі, з мэтай яе прыстасавання пад званіцу. У 1529 у касцёле ўзведзены на пасад вял. князя ВКЛ 9-гадовы Жыгімонт Аўгуст. У час аднаўлення помніка




**Віленскі кафедральны касцёл Станіслава і Уладзіслава**. Фрагмент гравюры Т.Макоўскага. Каля 1600.

пасля пажару 1530 перароблена некалькі ранейшых капліц, а таксама пабудаваны новыя. У выніку рэканструкцыі, якой кіравалі італьянскія архітэктары Б.З.Джаноці і Дж.Чыні, помнік набыў стылістычныя прыкметы рэнесансу. Пасля пажару 1610 рамонт касцёла працягваўся да 1632 пад кіраўніцтвам архітэктара В.Поля, касцёлу нададзены барочныя рысы. У 1623—36 да яго паўд.-ўсх. вугла прыбудавана капліца св. Казіміра ў стылі ранняга барока. Яе інтэр'ер упрыгожаны рознакаляровым мармурам, фрэскамі, скульптурай (аўтарства прыпісваецца італьянскаму архітэктару і скульптару К.Тэнкала). Рэльефны дэкор купала, аркад і алтара капліцы з'явіўся пасля рэстаўрацыі 1692 (аўтар невядомы). У канцы 17 ст. італьянскі мастак М.*Палоні* на бакавых сценках намаляваў 2 фрэскі: «Адкрыццё труны св. Казіміра» і «Цуд каля труны св. Казіміра». У нішах сцен размешчана 8 драўляных пасярэбраных статуй вял. князёў ВКЛ (аўтары невядомыя). У 1786—1801 касцёл перабудаваны паводле праекта віленскага архітэктара Л.*Гуцэвіча* ў стылі класіцызму. Работы былі завершаны пад кіраўніцтвам арх. М.Шульца. Унутраная прастора мала зменена. Пастаўлены толькі новы алтар і дабудавана паўн. сакрыстыя. На гал. фасадзе з'явіўся велічны порцік з 6 дарычнымі калонамі, нішы з барочнымі скульптурамі евангелістаў, Аўраама і Майсея (італьянскі скульптар Т.Рыгі), на яго франтоне змешчаны гарэльеф «Ахвярапрынашэнне Ноя». У бакавых нішах паўд. фасада былі размешчаны скульптуры князёў ВКЛ (скульптар К.Ельскі), паўн. фасада — скульптуры святых, перанесеных сюды ў 19 ст. з касцёлаў св. Казіміра і місіянераў. З усх. боку касцёл быў злучаны праходам з размешчаным побач *Віленскім вялікакняжацкім палацам*.

*Літ.*: Homolicki M. Katedra wileńska: Obnowa kaplicy świętego Kazimira, z historycznymi o dawnym jej stanie wiadomościami // Wizerunki i roztrząsania naukowe. 1840. T. 13; Kirkor A.H. Bazylika Litewska. Kraków, 1866; Zahorski W. Katedra wileńska. Wilno, 1904; Lorentz S. Katedra wileńska w XIV—XV w. // Kurjer Wileński. 1934. № 88; Kieszkowski W. Dzieje placu katedralnego w Wilnie // Wilno. 1939. № 2; Киткаускас Н.Й. Вильнюсский кафедральный собор. Вильнюс, 1977; Kitkauskas N. Vilniaus pilys: Statyba ir architektūra. Vilnius, 1989. P. 79—142; Яго ж. Vilniaus arkikatedros požemiai. Vilnius, 1994.

*Аляксандр Кушнярэвіч.*

**Віленскі кляштар аўгусцінцаў.** Засн. ў 1677 разам з касцёлам Маці Божай Суцяшэння на месцы уніяцкай царквы Казьмы і Даміяна, якая згарэла ў 1655. Першы драўляны касцёл згарэў пры пажары



**Віленскі кляштар аўгусцінцаў.** Касцёл Маці Божай Суцяшэння.

Вільні ў 1742. У 1746—68 пабудаваны мураваны, 3-нефавы, аздоблены ў стылі ракако, на фасадзе — стройная шмат'-ярусная вежа. Пасля 1807 у кляштарных будынках размяшчалася рымска-каталіцкая семінарыя, у 1833—42 — духоўная акадэмія. Партрэт Вітаўта з касцёла (як фундатара аўгусцінцаў у ВКЛ) захоўваецца ў архікафедральным касцёле.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Віленскі кляштар баніфратраў.** Фундаваны біскупам А.Войнаю ў 1635 пры капліцы Св. Крыжа, пабудаванай у 1543 біскупам П.Гальшанскім на месцы легендарнай пакутніцкай смерці францысканцаў у часы Альгерда. Прамавугольны ў плане 3-нефавы касцёл з крыжовымі скляпеннямі, у стылі сціплага ранняга барока, пабудаваны ў 2-й чвэрці 17 ст.; у ім знаходзіцца крыніца, якая, паводле легенды, з'явілася на месцы вышэй згаданага пакутніцтва. Першапачатковы 2-вежавы фасад з ажурнымі крыжамі і бакавыя алтары ў інтэр'еры касцёла набылі рысы ракако пры адбудове пасля пажару ў сярэдзіне 18 ст. Да фасада касцёла злева і ззаду прылягаюць кляшторныя карпусы; у адзін з іх была ўбудавана капліца біскупа Гальшанскага (уцалела фундацыйная табліца). У комплекс уваходзяць яшчэ 2 асобныя будынкі. Баніфратры да іх скасавання (1843) утрымлівалі шпіталь, у якім лячылі і даглядалі псіхічна хворых. У 1976—95 касцёл служыў залай камернай музыкі.

*Аляксандр Ярашэвіч.*



**Віленскі кафедральны касцёл Станіслава і Уладзіслава.** Сучасны выгляд.





**Віленскі кляштар бенедыкцінак**. Касцёл Кацярыны.

**Віленскі кляштар бенедыкцінак.** Каля 1620 кляштар спрабавалі заснаваць Мікалай і Кацярына Гарадзіскія, якія ў сваёй камяніцы размясцілі некалькі манашак з Нясвіжа, але яны памерлі, не паспеўшы ўзаконіць фундацыю. Рэальным фундатарам кляштара стаў у 1622 біскуп А.Валовіч, які запрасіў яшчэ 12 манашак і ўзяў будаўніцтва пад сваю апеку. У 17—18 ст. налічвалася каля 30—40 законніц, меўся навіцыят, існавала школа (да 1843). Віленскія бенедыкцінкі выдавалі досыць многа кніжак, асабліва ў 18 ст., іх бібліятэка па колькасці была другой у хэлмінскай кангрэгацыі (цяпер у Нац. б-цы Літвы). З 1625 кляштару належаў маёнтак Вязынь (Ашмянскі пав.), у 1682 набыў Галін і Парудаміну, браў у заставу шматлікія вёскі і фальваркі на Віленшчыне і Меншчыне. Найбольшы пасаг кляштару па сваіх дочках Сібіле і Ганне даў падкаморы ВКЛ Я.Ф.Пац: Дзісну, Астравец і Тверач з вёскамі (1688). Амаль уся зямельная ўласнасць канфіскавана пасля 1793. Кляштар — буйнейшы архітэктурны ансамбль эпохі барока ў Вільні. Касцёл св. Кацярыны ўпершыню асвячоны ў 1632. У 1650 пабудаваны мураваны касцёл: аднанефавы, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, выцягнуты прэсбітэрый закончаны паўцыркульнай апсідай. Пашкоджаны ў вайну 1655—61, адбудаваны і асвячоны 1703. Рэканструяваны І.К.*Глаўбіцам* у 1741—43, касцёл стаў адным з самых яркіх помнікаў «віленскага барока». Капліца з паўд. боку дабудавана ў 1746. Алтары выкананы ў 1752—53 І.Хердэгенам, скульптура галоўнага належыць І.Вашчынскаму, капліца аздоблена Я.Хедэлем. Кляштар існаваў да 1942.

*Літ.*: Borkowska M. Słownik mniszek benedyktyńskich w Polsce. Tyniec, 1989. S. 121—124; Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1994. T. 2. P. 129—131.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар бернардзінак.** Заснаваны ў 1495 дачкою віленскага ваяводы Г.Аляхновіч, якая стала ігуменняй. Знаходзіўся на Зарэччы, за р. Віленка. Свайго касцёла манашкі не мелі, карысталіся бернардзінскім. У 1594—96 Л.*Сапега* перарабіў свой палац пад кляштар, дакупіў некалькі дамоў і пляцаў і заснаваў касцёл св. Міхала Арханёла. Адзінаю ўмоваю фундацыі з'яўлялася: маліцца за караля, сенат, усю краіну і за сям'ю фундатара. На пражыццё і адзенне 24 манашак Сапега запісаў мястэчкі Стары Лепель, Белы (Новы) Лепель з вёскамі Стаі, Лепль, а таксама Бела, Бароўна, Залессе, Слабада, Зорніца, Зежлін, Пелевіж у Полацкім ваяв. і Кежы ў Віленскім. 29.4.1596 бернардзінкі з працэсіяй перайшлі з Зарэчча ў новы кляштар. Канцлер падараваў у галоўны алтар касцёла старажытны абраз Маці Божай («Мадонна Сапегаў»). Касцёл стаў пахавальняй для Л.Сапегі, яго жонак Дароты Фірлей і Альжбеты Радзівіл, сыноў Крыштофа і Яна Станіслава, а таксама іншых прадстаўнікоў роду Сапегаў, іх жонак і дзяцей. У 1655 касцёл спалены і разрабаваны: прапала ўсё каштоўнае начынне, нават нябожчыкі былі выкінуты з металічных трун. Пасля адыходу маскоўскіх войск гетман П.Я.Сапега аднавіў касцёл (1661), ігумення Сакалінская перапахавала фундатара ў асобнай драўлянай труне, астатніх — у агульнай. 13.2.1670 камісія біскупа прызнала абраз Маці Божай цудатворным, каранацыя яго адбылася 8.9.1750 (цяпер знаходзіцца ў архікафед-



**Віленскі кляштар бернардзінак**. Касцёл Міхала Арханёла.



ральным касцёле). Касцёл закончаны ў 1625 у рэнесансавым стылі з элементамі готыкі, аднанефавы, прамавугольны ў плане, цыліндрычнае скляпенне на распалубках аздоблена ляпнымі ўзорамі накшталт гатычных нервюр. Фасад з 6-граннымі вежамі па краях увенчаны фігурным франтонам. У канцы 17 ст. пабудавана званіца ў стылі ранняга барока. Касцёл і кляштар не пацярпелі ад пажараў Вільні 18 ст. і вайны 1812. Кляштар зачынены ў 1864, касцёл — у 1885. У 1905 вернуты Сапегам як фамільная пахавальня, рэстаўрыраваны ў 1906—12. Цяпер — музей архітэктуры.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар бернардзінцаў.** У 1469 вял. кн. Казімір запрасіў у Вільню бернардзінцаў, якім падараваў пляц зямлі каля велікакняжацкага млына на р. Вілія. У 1475 драўляныя кляштар і касцёл згарэлі. Каля 1480 з дапамогай мяшчан і шляхты завершана ўзвядзенне мураванага касцёла св. Бернарда (Бернардзіна). У 1500 сцены і скляпенні асноўнага аб'ёму абваліліся, захаваліся толькі прэсбітэрый і сакрыстыя. На працягу 1506—13 аднаўленне касцёла вялося пад кіраўніцтвам архітэктара М.Энкінгера. У 1520 храм асвячоны ў гонар св. Францішка. Жыллёвы корпус уяўляў сабою 2-павярховую пабудову са складанай канфігурацыяй плана, асобныя праслы сцен якога былі ўпрыгожаны гатычнымі фрэскамі. Памяшканні былі прыстасаваны пад келлі, бібліятэку, архіў, бальніцу, аптэку, кухню, сталовую і інш. Моцна пацярпеў ад пажараў 1560 і 1564. Адноўлены ў 1579—80. Значныя пашкоджанні кляштару нанесены ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1656—59. У працэсе рамонту касцёла ў 1660—76 замест гатычных у завяршэнні тарцовых фасадаў зроблены барочныя франтоны. Пасля храм быў асвячоны ў гонар св. Бернардзіна і Францыска. У 1733, 1744—45, 1763 праведзены значныя рамонты жыллёвага корпуса. У 1794 у час аблогі Вільні рас. войскамі ў касцёле здарыўся пажар. Пасля рэстаўрацыі адноўлены франтон гал. фасада і пераароблена завяршэнне вежаў. У 1864 кляштар зачынены і прыстасаваны пад казармы. У пач. 20 ст. надбудаваны 3-і паверх. Цяпер частку яго памяшканняў займае Акадэмія мастацтваў Літоўскай Рэспублікі. Касцёл — 3-нефавая пабудова з моцна выцягнутым у даўжыню прэсбітэрыем, які заканчваецца алтарнай часткай. На вуглах гал. і паўд. фасадаў узвышаюцца багата дэкарыраваныя вежы шматграннай формы. Фасады, за выключэннем паўночнага, падзелены высокімі контрфорсамі на асобныя праслы, якія празаюць вокны спічастай формы. Гал. фасад завяршаецца франтонам барочнай формы. Да паўд. фасада прымыкаюць невысокія рэнесансавыя і барочныя капліцы. Кампазіцыйнае значэнне гал. фасада падкрэслена прытворам, які закрывае першапачатковы, багата аформлены прафіляванай цэглай гатычны партал. Да паўн. фасада і вімы прымыкае 2-павярховы корпус кляштара складанай у плане канфігурацыі. У інтэр'еры над уваходам маюцца барочныя хоры. Нефы кафалікона перакрываюць крыжовыя і сотавыя скляпенні. Прэсбітэрый перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Інтэр'ер упрыгожваюць барочныя алтары, амбон (1690), гатычныя ажурныя металічныя краты дзвярэй бакавой капліцы, эпітафіі пач. 17 ст. (надмагіллі С.Радзівіла, скульптар В.ван дэр Блоке, 1618, і П.Весялоўскага, 1635).

*Літ.*: Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн., 1928; Skardžiuvienė R., Laucius G. Vilniaus Bernardinų bažnyčios architektūros raida // Architektūros paminklai. Vilnius, 1970; Janonienė R. Šventųjų pranciškonų kulto atspindžiai Vilniaus Bernardinų bažnyčios tapyboje // Menotyra. 1999. № 2; Яе ж. XVI a. pradžios sienų tapyba Vilniaus Bernardinų bažnyčioje // Там жа. 2001. № 2; Яе ж. Barokowie wyposażenie kościoła bernardyńskiego w Wilnie: Obrazy nieołtarzowe // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7, Z. 3; Jankevičienė A. Źródła kompozycji i problem autorstwa kościołów Bernardyńskiego i św. Anny w Wilnie // Przegląd Wschodni. 2001. T. 7, z. 3; Яе ж. Vilniaus bernardinų pastatų ansamblis ir jo architektūros kilmės problemos // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***



**Віленскі кляштар бернардзінцаў.** Касцёл Францыска і Бернарда.

**Віленскі кляштар візітак.** Узнік па ініцыятыве біскупа К.Бжастоўскага. У 1717 пабудавана капліца, у 1729—44 — касцёл Сэрца Ісуса на сродкі Бжастоўскага, асвячоны ў 1756. Тып храма, магчыма, бярэ пачатак ад варшаўскага касцёла сакраментак (1688—92) архітэктара з Нідэрландаў Т. ван Гамерэна. У плане грэчаскі крыж з кароткімі плячамі, сяродкрыжжа мае выгляд ратонды, увенчанай лёгкім 8-гранным купалам. У 1744 на карнізе барабана ўстаноўлена прыгожая ажурная жалезная балюстрада з пазалотай. У алтарах знаходзіліся абразы Ш.Чаховіча. Вытанчанае аздабленне інтэр'ера алтарамі, размалёўкамі і лепкай, закончанае ў 1763, было адным з лепшых узораў стылю ракако ў Вільні. Яго формы і гнуткія лініі характэрны для фасадаў і купала. Да касцёла прымыкае кляштарны корпус складанага разгалінаванага плана з унутраным дваром. Архітэктар ансамбля і кіраўнік будоўлі — І.Пола. Пасля 1863 у кляштары размешчаны правасл. жаночы манастыр, касцёл пераароблены пад царкву Марыі Магдалены. У 1919 вярнуліся візіткі, якія тут адчынілі ўзорную школу для дзяўчат.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар дамініканцаў.** У 1408 будаўніцтва касцёла Св. Духа фундаваў вял. кн. Вітаўт. Асн. аб'ём касцёла меў план прамавугольнай формы, заканчваўся прэсбітэрыем з гранёнай



апсідай. З паўн. боку да вімы прымыкала сакрыстыя. У 2-й чвэрці 15 ст. касцёл павялічаны ў даўжыню. У 1501 паводле загаду вял. кн. Аляксандра касцёл з забудовай вакол яго перададзены запрошаным з Польшчы дамініканцам. Яны часткова перабудавалі касцёл і ўзвялі каля паўд.-зах. вугла квадаратную ў плане вежу. Быў пабудаваны кляштар (прымыкае да гал. і паўн. фасадаў). Пашкоджаны ў час пажараў 1655, 1748 і 1749. У яго аб'ёмную кампазіцыю ўключаны грамадзянскія пабудовы, размешчаныя на ПнЗ



**Віленскі кляштар дамініканцаў.**
Касцёл Св. Духа.

ад касцёла. У сярэдзіне—2-й пал. 16 ст. недалёка ад паўд. прасла гал. фасада ўзведзена вежа-званіца, прыстасаваная для абароны. У 1655 касцёл і кляштар моцна пашкоджаны маскоўскім войскам. Аднаўлены на сродкі М.Вайніловіча. Асвячоны ў 1688. У 17—18 ст. касцёлу і кляштару нададзены барочныя рысы. Шматлікія рамонты і перабудовы парушылі яго першапачатковую архітэктуру. Цяпер касцёл Св. Духа — тыповая 2-вежавая познабарочная 3-нефавая базіліка з купалам над сяродкрыжжам. Гал. фасад 2-вежавы, падзелены карнізамі на ярусы, раскрапаваныя пілястрамі на асобныя праслы. Гал. ўваход зроблены з боку паўд. фасада, аформлены парталам з дарычнымі калонамі, пілястрамі і рэльефным картушам. Інтэр'ер аздоблены ў стылі ракако і позняга барока. Гал. дэкаратыўныя акцэнты — 16 вялікіх алтароў арыгінальнай кампазіцыі і амбон. Купал і скляпенні размаляваны фрэскамі на тэмы з жыцій святых. У 1849 корпус кляштараператвораны ў турму (яе вязнем быў К.Каліноўскі).

*Літ.*: W o ł y n i a k. Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej. Kraków, 1917; J a n k e v i č i ė n ė A., S a m u k i e n ė A. Gotikos reliktai Vilniaus Dominikanų architektūros ansamblyje // Lietuvos TSR architektūros klausimai. Vilnius, 1988. T. 9 (1); I x ж а. Gotikos Vilniaus dominikanř architektūros ansamblyje // Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gotika: sakralinė architektūra ir dailė. Vilnius, 2002.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Віленскі кляштар дамініканцаў** н а Л у к і ш к а х. Кляштар і касцёл святых Якуба і Піліпа заснаваны ў 1624—42 смаленскім кашталянам Ю.Л.Храптовічам, які запісаў віленскім дамініканцам на мэты будоўлі 40 тыс. злотых. Касцёл будаваўся ў 1690—1727, 1-нефавы, перакрыты цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, з паўцыркульнай апсідай, капліцай св. Яцака і 2 ярусамі акон. Першапачатковы фасад завяршаўся франтонам, у 1727—37 дабудаваны бакавыя вежы паводле плану архітэктара А.А.Гену. Алтары выкананы архітэктарам І.Хердэгенам і скульптарам Ю.Хедэлем. У касцёле з 1684 знаходзіўся абраз Маці Божай (тыпу Смаленскай Адзігітрыі), прывезены ў пач. 17 ст. з Масквы А.Гасеўскім (прызнаны біскупам Бжастоўскім цудатворным). У 1713—39 вымураваны у плане Г-падобны кляштар, з 1765 існаваў шпіталь, фундаваны ашмянскім земскім суддзёю С.Слізенем. У 1844 кляштар зачынены, касцёл застаўся парафіяльным. З 1992 тут размешчаны генеральны вікарыят дамініканцаў Беларусі, Латвіі, Літвы і Эстоніі.

*Літ.*: Lietuvos vienuolynai vadovas. Vilnius, 1998. P. 322—328; Lietuvos architektūros istorija. Vilnius, 1994. T. 2. P. 122—123.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар канонікаў латэранскіх.** У 1625 біскуп А.Валовіч змясціў 2 манахаў з Кракава пры касцёле Пятра і Паўла на Антаколі і завяшчаў закончыць фундацыю свайму пераемніку А.Войну. У 1628 капітула ордэна ў Кракаве пастанавіла, каб манахаў у Вільні ўтрымлівалі сваім коштам Быхаўскі і Крамяніцкі кляштары. Толькі ў 1638 канонікі сталі ўладальнікамі касцёла, але ў час маскоўскай акупацыі Вільні ён быў разабраны. У 1666 віленскі ваявода М.К.Пац запісаў 75 тыс. злотых на пабудову касцёла, вуглавы камень якога ў 1668 асвяціў біскуп А.Сапега. Пац запісаў маёнтак Відзы на ўтрыманне 12 манахаў, набыў камяніцу на рынку, у 1677 закладзены кляштар з умовай, каб маліліся не толькі за фундатара і яго сям'ю, але і за жаўнераў, што палеглі ў бітвах пад яго камандай. Гетман пахаваны перад уваходам у касцёл у 1682. План храма належыць архітэктару Я.Заору з Кракава, кіраваў будоўляй Дж.Б.Фрэдзіяні. Будаўніцтва скончана ў 1675, аздабленне скульптурамі і арнаментамі са стука выканана майстрамі з К.П.Перэці і Дж.Галі ў 1677—84. Размалёўкі належаць М. да Альтамонтэ. Асвячоны ў 1701 біскупам К.К.Бжастоўскім. У касцёле захаваўся абраз Маці Божай Ласкавай, падараваны біскупам Е.Тышкевічам у 1647, ім апекавалася адпаведнае



**Віленскі кляштар дамініканцаў** на Лукішках. Касцёл Якуба і Піліпа.



**Віленскі кляштар канонікаў латэранскіх.** Касцёл Пятра і Паўла.

брацтва. Касцёл — 3-нефавая крыжова-купальная базіліка. Вышыня купала — 39 м. Гал. фасад 2-ярусны, з 2 невял. вежамі (унізе круглыя, 2-і і 3-і ярусы — васьмерыкі), пышным парталам з выгнутым двайным франтонам, упрыгожаны пілястрамі, блюстрадай, калонамі, нішамі, скульптурамі. Касцёл—адна з самых значных пабудоў у стылі барока ў Літве; дзейнічае. У 1864 кляштар забраны пад казармы.

*Літ.*: Samalavičius S. Vilniaus Šv. Petro ir Povilo bažnyca. Vilnius, 1998; Pietrzkiewicz I. Biblioteka klasztoru kanoników regularnych laterańskich w Wilnie w XVII—XIX w. // Белорусский сборник. СПб., 2002. Вып. 2.

***Аляксандр Ярашэвіч.***



**Віленскі кляштар канонікаў латэранскіх.** Інтэр'ер касцёла Пятра і Паўла.

**Віленскі кляштар кармелітаў абутых.** Засн. віленскім ваяводам і канцлерам ВКЛ М.Радзівілам у памяць пра бітву пад Клецкам 1506. Кляштар і пазней быў пад апекай Радзівілаў. Яму належала некалькі камяніц і пляцаў у Вільні, а таксама землі ў Рудамінскай воласці. Магчыма, да 1509 быў закладзены касцёл Маці Божай Снежнай і св. Юрыя (Георгія). Драўляныя будынкі згарэлі ў 1610 і 1645. Пасля гэтага пачалі будаваць мураваныя, у т.л. масіўную сцяну-агароджу, якая надае кляштару абарончы выгляд. Касцёл прамавугольны ў плане, 1-нефавы, перакрыты корабавым скляпеннем з люнетамі, бязвежавы фасад завяршаецца франтонам. Час пабудовы мураванага касцёла, відаць, першапачаткова гатычнага, невядомы, сучасны познабарочны выгляд ён набыў пры адбудове ў 1750—55 пасля пажару паводле плана Ф.І.Хофера на сродкі навагародскага ваяводы Ю.Радзівіла і яго маці Барбары з Завішаў, асвячоны віленскім біскупам-суфраганам Т.Зянковічам у 1765. Збоку дамуравана капліца св. Барбары, асобна стаіць невысокая квадратная вежа. У час адбудовы (да 1755) касцёл аздоблены размалёўкамі на тэмы пакут і цудаў св. Георгія, эмблематычнымі і геральдычнымі сюжэтамі палітычна-гіст. зместу. Тады ж выкананы мураваныя алтары (галоўны — св. Георгія, бакавыя — св. Язэпа, св. Тадэвуша Апостала, прарока Ілі, св. Яна



**Віленскі кляштар кармелітаў абутых.** Касцёл Юрыя (Георгія).

ад Крыжа, св. Філумены). У кляштары ў 17—18 ст. жылі 6—8 манахаў і 3—5 навіцыяў, існавалі курсы філасофіі (4 гады), з 1761 — тэалогіі (3 гады). Бібліятэка налічвала каля 2 тыс. тамоў. Пасля акупацыі Вільні 1654—60 кляштар паступова саступіў першынство (у т.л. і радзівілаўскія фундушы) кармеліцкаму кляштару Усіх Святых. У 1797 кляштар скасаваны, манахі перайшлі ў кляштар Усіх Святых, у будынку размешчана дыяцэзіяльная семінарыя.

*Літ.*: Гурска М., Ярашэвіч А. Эмблематыка ў насценных роспісах касцёла святога Юрыя ў Вільні // Наша вера. 2002. № 3

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар кармелітаў абутых** каля Рудніцкай брамы. Закладзены ў 1620—21 каралеўскім сакратаром В.Хлудзінскім, які 21.7.1624 запісаў на пабудову кляштара і касцёла св. Войцеха і Усіх Святых камяніцы, 3 дамы і пляц каля Рудніцкай брамы, у 1628 падараваў кармелітам свой маёнтак Жэлядзь у Ашмянскім пав. Асвячоны ў 1631. Касцёл — помнік ранняга барока, 3-нефавая базіліка з бакавымі капліцамі Маці Божай Балеснай і св. Ільі, прэсбітэрый завершаны гранёнай апсідай. Нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з люнетамі. Гал. алтар выкананы ў 1787 паводле праекта арх. М.Кнакфуса. У інтэр'еры 18 познабарочных алтароў з паліхромнага стука, у т.л. Ісуса, Усіх Святых, Маці Божай Чанстахоўскай. Гал. фасад падзелены пілястрамі і карнізнымі паясамі, завяршаецца шчытом з бакавымі валютамі і трохвугольным франтонам са скульптурамі прарока Ільі і Елісея. Злева пры фасадзе была прыбудавана 4-ярусная званіца (у 1743 адноўлена пасля пажару). 2-паверховы кляштарны корпус (час яго пабудовы дакладна невядомы) мае складаны план, ад вуліцы аздоблены багатым барочным шчытом, навіцыят аднапавярховы. Агульная колькасць манахаў, навіцыяў і студэнтаў у 17—18 ст. складала каля 30—40. Дагматычнай тэалогіі, філасофіі і навукам пачатковым у літоўскай правінцыі кармелітаў навучалі толькі ў гэтым кляштары.



**Віленскі кляштар кармелітаў абутых** каля Рудніцкай брамы. Касцёл Усіх Святых.

*Літ.*: Bohdziewicz P. Materiały do dziejów budowy kościoła karmelitów trzewiczkowych p.w. Wszystkich Świętych w Wilnie// Biuletyn historii sztuki. 1984. № 4.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар кармелітаў босых.** Засн. разам з касцёлам св.Тэрэзы падканцлерам ВКЛ С.Пацам з жонкай Ганнай з Рудамінаў-Дусяцкіх і бурмістрам І.Дубовічам у 1624. Размяшчаўся на вул. Вялікай каля Вострай брамы. Ініцыятарам фундацыі босых кармелітаў быў канцлер Л.Сапега. Касцёл пабудаваны ў 1633—54, у аздабленні фасада ўжыты рознакаляровыя мармуры. Праект на ўзор рымскіх касцёлаў кармелітаў Санта-Марыя-дэла-Скаля і Санта-Марыя-дэла-Вікторыя належыць каралеўскаму архітэктару італьянцу Канстанціну Тэнкала, кіраваў будаўніцтвам Ульрых. У плане 3-нефавая базыліка, са шчытавымі фасадамі, гал. неф перакрыты паўцыркульным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя нефы нагадваюць рад капліц, прэсбітэрый злучаны з сакрыстыяй і калідорамі. Пасля 1760 інтэр'ер аздоблены ансамблем алтароў са стука ў стылі ракако, сярод абразоў «Маці Божая Шкаплерная (Снежная)», «Экстаз св. Тэрэзы» Ш.Чаховіча, «Маці Божая са св. Казімірам» К.Русецкага. Фрэскавыя размалёўкі на скляпенні выкананы ў 1763—65 М.Слушчанскім. Капліца (пахавальня Пацаеў) дабудавана ў 1783. З 1671—72 існавала капліца босых кармелітаў над Вострай брамай

**Віленскі кляштар кармелітаў босых**. Касцёл Тэрэзы.



(спачатку драўляная, з 1712—15 муравaная) з вядомым цудатворным абразом Дзевы Марыі. Кляштар закладзены ў 1640, пасля вайны 1654—67 з Расіяй адноўлены ў 1667—72, рэстаўрыраваны ў 1699—1707.

*Літ.*: Račiūnaitė T. Vizijos ir atvaizdai: Basųjų karmelitų palikimas. Vilnius, 2003.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар кармелітаў босых.** Засн. ў 1638 падканцлерам ВКЛ С.Пацам з жонкай Ганнай Марцыбелай з Рудамінаў-Дусяцкіх паблізу касцёла Усіх Святых. Касцёл св. Юзафа асвячоны біскупам К.К.Бжастоўскім у 1692. Паводле іканаграфічных матэрыялаў, меў прыгожы фасад у стылі квітнеючага барока. Знесены ў 1875—76, на яго месцы зроблены рынак.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар місіянераў.** Фундаваны ў 1685 біскупам А.Катовічам. У 1687 жонка віленскага ваяводы К.Радзівіл пабудавала капліцу. Касцёл заснаваны ў 1695 інфлянцкім войскім Я.Т.Плятэрам з жонкай Аляксандрай, падтрымаў фундацыю навагародскі кашталян А.Навасельскі. Касцёл асвячоны ў 1730 пад тытулам Унебаўзяцця Дзевы Марыі. У 1750—54 І.К.*Глаўбіц* выканаў праект рэканструкцыі фасадаў у формах віленскага барока, рэалізаваны ў 1755—56. Найб. блізкі аналаг сярод работ архітэктара — вежы і шчыты полацкай Сафіі. Адтуль жа, відаць, паходзіць своеасаблівая 5-нефавасць віленскага касцёла — да традыцыйных 3 нефаў дабудаваны 2 пары капліц. У інтэр'еры 7 скульптурных алтароў сярэдзіны 18 ст., мемарыяльныя помнікі Міхала, Кацярыны і Рафала Яленскіх. Ансамбль кляштара складаецца з 4 будынкаў, якія прылягаюць да вуглоў і прэсбітэрыя касцёла і ў асноўным сфарміраваўся ў 1739—51 (найбольш ранні — двор Сангушкаў сярэдзіны 17 ст.). У 1745 смаленскі біскуп Б.Гасеўскі фундаваў шпіталь з капліцай св. Альжбеты. Кляштар быў зачынены ў 1865. З 1993 касцёл належыць Віленскай арцыбіскупскай курыі.

***Аляксандр Ярашэвіч.***



**Віленскі кляштар місіянераў.** Касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі.

**Віленскі кляштар трынітарыяў** на Антаколі. Засн. ў 1693 ваяводам віленскім і гетманам ВКЛ К.Я.Сапегам, які аддаў тэрыторыю сваёй рэзідэнцыі, фінансаваў будаўніцтва і аздабленне касцёла. Статутную мэту — выкуп нявольнікаў з палону ў няверных — кляштар не выконваў з-за адсутнасці сродкаў. Манахі дапамагалі абслугоўваць мясц. парафію, хадзілі са святымі дарамі і праводзілі імшы ў вязніцах; на свой кошт утрымлівалі 3 студэнтаў-медыкаў у Віленскай акадэміі, давалі ўклад на семінарыю; навучалі неафітаў з ахрышчаных яўрэяў. Пры кляштары існавала школа на 20 вучняў з беднай шляхты і калек, якіх, у прыватнасці, навучалі музыцы. Кляштар з касцёлам Ісуса пабудаваны ў 1694—1717, у 1700—05 аздоблены скульптурай са стука майстрам П.Перці; асвячоны ў 1716 і 1756. Касцёл у плане 8-вугольны, перакрыты купалам з вокнамі; абапал фасада пад вуглом пастаўлены невысокія вежы, ззаду і збоку прымыкаюць кляштарныя будынкі. У гал. алтары знаходзілася цудатворная статуя Ісуса Назарэя, прывезеная ў 1700 з Рыма. Пад касцёлам быў пахаваны маршалак ВКЛ А.Сапега (1691—1734); помнік пастаўлены сынам, біскупам каад'ютарам віленскім Юзафам (1744).

*Літ.*: Самуолене С. Работы Пьетро Перти в костеле Тринитариев в Вильнюсе // Проблемы развития зарубежного искусства. Л., 1984.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар трынітарыяў** у Трынопалі (Верках). Кляштар з касцёлам Св. Тройцы заснаваны віленскім біскупам К.К.Бжастоўскім у 1700. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1715—21, у 1750—60 фасаду нададзены познебарокавы выгляд. Да касцёла прымыкае пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. 2-павярховы кляштар, у плане Г-падобны. У 1992 комплекс перададзены Віленскай арцыбіскупскай курыі.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віленскі кляштар францысканцаў.** Пабудаваны ў канцы 14—1-й чвэрці 15 ст. на месцы спаленага ў 1390 крыжакамі драўлянага касцёла. У 1533 згарэў дах касцёла Унебаўзяцця Дзевы Марыі і абваліліся скляпенні. Уяўленне аб помніку пасля аднаўлення дае гравюра Вільні пач. 17 ст. Т.Макоўскага. Гэта была гатычная, напэўна, зальная 3-нефавая пабудова, накрытая высокім дахам. Гал. фасад быў прарэзаны па восі сіметрыі акном спічастай формы і завяршаўся

франтонам прыступкавай формы. Да паўд. сцяны прэсбітэрыя прымыкалі гатычны будынак 2-павярховага кляштара, які часткова захаваўся да нашага часу, а таксама вежа-званіца (разбурана ў 1872). У час пажараў Вільні 1610, 1737, 1748 храм значна пашкоджаны. У 2-й пал. 18 ст. яго перабудавалі ў стылі барока. Быў падвышаны цэнтральны неф. Па сваёй архітэктоніцы помнік стаў базілікай. Франтон гал. фасада набыў плаўныя барочныя лініі. Інтэр'ер выкананы ў стылі позняга барока і ранняга класіцызму. Пасля значных рэканструкцый касцёл асвячоны ў 1764 і 1794. У 1773—80 завершана фарміраванне архітэктурнага комплексу кляштара ў класіцыстычным



**Віленскі кляштар францысканцаў.**
Касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі.

стылі пад кіраўніцтвам архітэктараў К.Каменскага і А.Касоўскага. Значныя пашкоджанні касцёлу і жыломy корпусу нанесены ў час вайны 1812. У 1864 за ўдзел манахаў у паўстанні 1863 касцёл і кляштар зачынены і прыстасаваны пад архіў, адміністрацыйныя і жылыя памяшканні. У 1907—17 тут дзейнічалі літоўскія асветныя ўстановы. У 1936—38 касцёл з кляштарам вернуты францысканцам. У 1941 сав. ўлады нацыяналізавалі кляштар. У 1998 помнік перададзены канвентуалам. Будынак кляштара часткова адрэстаўрыраваны. Касцёл — 6-слупавая базіліка з моцна выцягнутым прэсбітэрыем, што заканчваецца шматгранкай апсідай, сцены якой умацаваны контрфорсамі. З бакоў да вімы прымыкаюць сакрыстыя і капліцы. Цэнтр. неф накрыты 2-схільным, бакавыя — 1-схільным дахамі. Гал. фасад прарэзаны дзвярным праёмам спічастай формы і аконнымі праёмамі з паўцыркульным завяршэннем, члянёны пілястрамі і карнізным поясам у 2-м ярусе. Кампазіцыю фасада вянчае атыкавы франтон з паўкруглым складана прафіляваным завяршэннем і барочнымі валютамі па баках. Пластыку паўн. фасада вызначаюць пабудаваныя каля яго крайніх праслаў цыліндрычная вежа з вінтавымі ўсходамі і квадратная ў плане капліца, вуглы якой умацаваны контрфорсамі. Цэнтр. неф і прэсбітэрый вырашаны адзіным аб'ёмам з агульным дахам. Унутраная прастора перакрыта крыжовымі скляпеннямі без папярэчных падпружных арак. Аналагічныя скляпенні ўжыты ў сакрыстыі, у капліцах выкарыстаны гатычныя сотавыя скляпенні. Фасады храма захавалі гатычную тэхніку муроўкі.

*Літ*: K a n t a k K. Franciszkanie polscy (1237—1517). T. 1. Kraków, 1937. S. 303—304; Lietuvos architektūros istorija. T. 1. 1987. P. 129 — 130; Lietuvos vienuolynai. Vilnius, 1998. P. 388—396.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Віленскі летапіс**, помнік беларуска-літоўскага летапісання, найбольш ранні спіс *«Летапісца вялікіх князёў літоўскіх»*. Захаваўся ў гіст. зборніку канца 15—пач. 16 ст., які зберагаецца ў Вільнюсе. Паходзіць з Усх. Беларусі, знойдзены ў Полацку ў 19 ст. Апрача «Летапісца» рукапіс змяшчае і *Аўрамкі летапіс*. Спіс дэфектны, канец тэксту не захаваўся, ён абрываецца на апавяданні пра загадкавую смерць у Кіеве князя Скіргайлы. Асн. змест — паліт. гісторыя ВКЛ ад часоў Гедзіміна да Вітаўта, пададзеная ў форме займальнай гіст. аповесці з драматычна напружаным сюжэтам. В.л. напісаны дзелавым стылем старабел. літ. мовы з выкарыстаннем месцамі кніжных архаічных, стараж.-рус. і царк.-слав. элементаў. Упершыню апублікаваны А.Бычковым у 1893, перавыдадзены ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 17, СПб., 1907; т. 35, М., 1980).

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Віленскі манетны двор**, асноўны цэнтр манетнай вытворчасці ў ВКЛ. Існаваў з канца 15 ст. да 1667. Выпускаў шырокую гаму манетных наміналаў у серабры, золаце (з 16 ст.), медзі (у 1664—66). У час панавання Жыгімонта II Аўгуста [1548—72] быў агульнадзярж. манетным дваром Рэчы Паспалітай. Да Люблінскай уніі 1569 манеты В.м.д. мелі асобную стапу і выяву «Пагоні», пры уніфікацыі манеты ў час панавання Стафана Баторыя [1576—86] выбіваліся адначасова гербы ВКЛ і Польскага каралеўства. Праявай характэрнага для сярэдзіны 17 ст. ліцвінскага сепаратызму было змяшчэнне ў гэты час на манетах толькі «Пагоні». Манеты В.м.д. пазнаюцца па гербах вял. падскарбіяў ВКЛ або па ініцыялах арандатараў. Вядомы лічыльныя жэтоны сярэдзіны 16—пач. 17 ст. В.м.д. са знакамі падскарбіяў. Матэрыяльныя сляды манетнай вытворчасці 17 ст. адкрыты ў час археал. раскопак Вільні канца 20—пач. 21 ст. (шматлікія кружкі — загатоўкі медных солідаў Яна II Казіміра).

*Літ*.: G u m o w s k i M. Mennica Wileńska w XVI i XVII wieku. Warszawa, 1921.

***Іван Сінчук.***

**Віленскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Утвораны ў працэсе адм.-тэр. рэформы 1565—66 у *Віленскім ваяводстве* (якое ў некат. крыніцах 1-й пал. 16 ст. таксама называлася «паветам») шляхам аб'яднання шэрагу валасцей (харужстваў), якія раней падпарадкоўваліся непасрэдна віленскаму ваяводзе: Гедройцкай (частка яе адышла да *Вількамірскага павета*), Кернаўскай, Медніцкай, Мейшагольскай, Меміжскай, Няменчынскай, Рудамінскай. У склад В.п. ўвайшлі таксама панскія маёнткі (раздзівілаўскія Дубінкі, Муснікі, Упнікі, прыналежныя розным панам Астравец, Вялькія і Малыя Салечнікі і інш.) і ўладанні каталіцкай царквы (Веркі, Гервяты, Маляты, Панары, Рукойны, Шашолы). Старшынства над павятовай шляхтай было ўскладзена на віленскага кашталяна (пасада існавала з 1413). Першым падкаморым абраны Я.Лявон, суддзёй земскім — Ю.Белазор, падсудкам — С.Касінскі, пісарам — А.Мацкевіч, павятовым харужым — С.Нарбут. Плошча павета склала каля 6,3 тыс. км², з іх каля 0,5 тыс. км² знаходзіліся на тэр. сучаснай Беларусі. Межы В.п. ў далейшым зведалі нязначныя змены — асобныя прыгранічныя маёнткі перадаваліся з павета ў павет. У сярэдзіне 17 ст. ў В.п. налічвалася 16,5 тыс. дымоў, што адпавядае колькасці насельніцтва каля 100—115 тыс. чал. Павет моцна пацярпеў у *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, на 1667 засталося 8,5 тыс. дымоў. У 1690 В.п. падзяляўся на 23 парафіі. Адметнасцю павета была адсутнасць




Аўтар карты М.Ф. Спірыдонаў

буйных латыфундый, пераважалі дробныя і сярэднія па памерах (да 500 дымоў) маёнткі. Дамінавала шляхецкая ўласнасць (да 74% дымоў). Дзяржаве належала каля 13% дымоў, каталіцкай царкве — таксама 13%. Насельніцтва ў апошняй чвэрці 18 ст. дасягала 125 — 160 тыс. чал. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) далучаны да Рас. імперыі.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Віленскі піярскі «Калегіум нобіліум»**, элітарная сярэдняя навучальная ўстанова ў Вільні. Адчыніў у 1738 ордэн *піяраў* для дзяцей шляхты. Ініцыятарам стварэння быў С.*Канарскі*, які напісаў для калегіума правілы на ўзор статута «Калегіум назарэнум» у Рыме. З-за фінансавых цяжкасцей, адсутнасці падтрымкі з боку магнатаў, недахопу кваліфікаваных выкладчыкаў праз некалькі год зачынены. Зноў адчынены у 1756 па ініцыятыве М.*Догеля*, які стаў яго рэктарам. Пры калегіуме існаваў канвікт (інтэрнат). Выкладаліся ў асноўным свецкія дысцыпліны.

*Валерый Пазднякоў.*

**Віленскі Прачысценскі сабор.** Царкву заснаваў вял. кн. Альгерд. Мураваны храм пабудаваў паміж 1514 і 1516 гетман ВКЛ К.В.*Астрожскі.* У 1416 мітрапаліт *Грыгорый* Цамблак абвясціў яго кафедральным саборам. Быў гал. храмам правасл., з 1596 уніяцкай царквы ВКЛ. У 1610, 1652, 1716, 1748 пашкоджаны пажарамі. З сярэдзіны 18 ст. пуставаў. У 1785 адрамантаваны, у 1795 перададзены базыльянам. У 1810 інтэр'ер сабора раздзялілі на 2 паверхі для размяшчэння універсітэцкай анатамічнай залы, потым яго прызначэнне неаднаразова мянялася. У 1864—68 адноўлены паводле праекта архітэктараў А.І.Разанава і А.І.Чагіна. Першапачаткова гэта была крыжовакупальная 3-апсідная пабудова з 4 вежамі па вуглах. Унутр. прастору храма асвятлялі ўласцівыя готыцы вокны спічастай формы, якія мелі складанапрафіляваныя адхоны. Вокны былі зроблены ва ўсіх травеях бакавых нефаў, а таксама ў кожнай грані алтарнай часткі. Сярэдняя апсіда, як і цяпер, была больш высокая за бакавыя і выступала за вонкавы контур іх сцен. Яе вокны былі вузейшымі і завяршаліся аркай спічастай формы значна вышэй, чым у бакавых апсідах. У аснову дэкору пакладзена чаргаванне вокнаў спічастай формы і ніш розных абрысаў. Ужыты вельмі вузкія і высокія паўцыркульныя і спараныя аналагічнай формы нішы з невял. замком. У ніжняй частцы ніш ужыты рамбавіднай формы арнамент,



Віленскі Прачысценскі сабор.



выкананы з цэглы, якая рэльефна выступае з муроўкі. Багатае вонкавае пластычнае вырашэнне меў асн. аб'ём храма. У яго ніжняй частцы быў зроблены з цэглы шырокі дэкаратыўны пояс з розных геаметрычных фігур. У час рамонту ў 19 ст. ў асноўным быў паўтораны яго малюнак. Цяпер будынак складаецца з асн. аб'ёму, які мае план амаль квадратнай формы, і 3-апсіднай алтарнай часткі. Па вуглах узвышаюцца 4 вежы цыліндрычнай формы. Аб'ёмная кампазіцыя завяршаецца купалам.

*Літ.*: Виленский Успенский собор, называемый Пречистинским и Митрополительным // Памятники русской старины в западных губерниях. СПб., 1872. Вып. 5; Щербицкий О.В. Виленский Пречистенский собор: (Исторический очерк в связи с церковно-религиозной жизнью г. Вильны). Вильна, 1903; Виноградов А.А. Православные святыни г. Вильна. Вильна, 1906; Добрянский Ф.Н. Старая и новая Вильна. Вильна, 1904; Соболевский И.В. Пречистинский собор в Вильне. Вильна, 1904; Янкевичене А.С. Некоторые сооружения Вильнюса XVI в. // Архитектурное наследство. М., 1964. Вып. 17; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 90—91.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Віленскі прывілей 1563**, заканадаўчы акт, якім фармальна былі ўраўнаваны ў палітычных правах праваслаўныя феадалы ВКЛ з феадаламі-католікамі. Выдадзены на бел. мове Жыгімонтам II Аўгустам 7.6.1563 на Віленскім сойме. Тэкст прывілея ў якасці прэамбулы ўвайшоў у *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*. У прывілеі сцвярджалася, што «...иж от того часу не только тые панове, шляхта и бояре, або потомкове их, всих земль наших того всего паньства нашого, дарованья привильев и наданья всих вольностей и прав земских уживати и с них ся веселити мають, которые суть поддани костелу римскому и которых те жъ предкове клейноты и гербы в Коруне Польской приймовали, але те жъ и вси иные стану рыцерского и шляхетского, яко литовского, так и руского народу, одно бы были веры хрестиянское, и те жъ которых предкове клейнотов альбо гербов с Коруны Польское не брали, одинако и заровно того всего вечными часы уживати и с тых вольностей веселитися мають, яко перед тым, здавна и до того часу, тых всих вольностей стан рыцерский шляхетский обоего народу, так литовского, яко и руского, уживали и с того ся веселили». Далей у прывілеі запісана, што правасл. шляхціцы, як і католікі, могуць займаць розныя дзярж. пасады. Прывілей засведчыў, што дыскрымінацыйныя адносна правасл. шляхты ВКЛ нормы *Гарадзельскага прывілея 1413* фактычна і раней не дзейнічалі (асабліва пасля прыняцця *прывілея 1434* і *прывілея 1447*). Таму В.п. 1563 меў не столькі практычнае значэнне, колькі фармальнае і быў выдадзены з мэтай паліт. кансалідацыі шляхты пасля няўдач у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, у час правядзення *валочнай памеры*, напярэдадні заключэння *Люблінскай уніі 1569*.

*Літ.*: Любавский М.К. Очерк истории Литовско-Русского государства до Люблинской унии включительно. 2 изд. [М.], 1915; Белоруссия в эпоху феодализма. Мн., 1959. Т. 1. С. 141—143; Юхо І. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991. С. 192.

***Язэп Юхо.***

**Віленскі прывілей 1565**, нарматыўны прававы акт, які стварыў інстытут перадсоймавых *соймікаў*. Выдадзены вял. князем літоўскім Жыгімонтам Аўгустам 30.12.1565 на Віленскім сойме 1565—66 па просьбе шляхты. Соймікі павінны былі збірацца ў ваяводствах і паветах перад вальным *соймам*, мелі права абмяркоўваць справы соймаў, выбіраць павятовых паслоў і даваць ім інструкцыі. Разам з арт. 5, 6 і 12 раздзела 3 Статута ВКЛ 1566 прывілей аформіў дэ-юрэ інстытут вальнага сойма з вызначанай сістэмай прадстаўніцтва. У тэксце прывілея яшчэ не сустракаецца тэрмін «соймік», замест яго ўжываюцца словазлучэнні «соймы малые», «соймы поветовые», «съезды поветовые», хоць у просьбе шляхты ўжыты менавіта тэрмін «соймік». Прывілей не вызначаў пэўную арганізацыю сойміка і абмежаваўся сцвярджэннем, што соймікі маюць адбывацца «тым же прикладом и порядком, яко на таких соймех поветовых справа, поступок и обычай заховывается в панстве нашом Коруне Польской». Вызначалася, аднак, што соймікі павінны збірацца «в тых же поветех на местцах головнейших». У Статуце ВКЛ 1566 адзначалася, што элекцыйныя з'езды павінны адбывацца ў замку ці гаспадарскім двары, «которий на посродку того повету будеть» (з чаго вынікае, што гэты замак ці двор не



Віленскі прывілей 1563.



Віленскі прывілей 1565.



абавязкова павінен быць адм. цэнтрам павета ці ваяводства). Прывілей даў права ўдзелу ў сойміках «всим обывателем... всим паном радам нашим, князем, паном врядником земским и дворным, и всим станом народу шляхетского и стану рыцерского, где хто в котором повете оселость мает», аднак дакладна не вызначыў поўны склад удзельнікаў сойміка. Як адзначаецца ў навук. л-ры, удзельнічаць у працы сойміка мелі права асобы хрысціянскага веравызнання, якія карысталіся суверэннымі правамі на сваіх землях пад сюзерэнітэтам вял. князя.

*Публ.*: Акты, относящиеся к истории Западной России. СПб., 1848. Т. 3. С. 138—139.
*Літ.*: Якубовский И.В. Земские привилеи Великого княжества Литовского // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1903. № 4; Лаппо И.И. Великое Княжество Литовское во второй половине XVI столетия: Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911; Zakrzewski A.B. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI—XVIII w. Ustrój i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2000; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002.

*Андрэй Радаман.*

**Віленскі Святадухаўскі манастыр.** Засн. правасл. брацтвам, якое існавала з 1584 пры Троіцкай царкве. Пляц і сродкі падораны ў 1596 сёстрамі Ганнай Абрамовіч і Фядорай Зяновіч (з Валовічаў), кашталян навагародскі А.Палубінскі перадаў у валоданне брацтва двор Судэрва. У 1597 царква ўжо дзейнічала, манастыр згадваецца з 1604. Першым архімандрытам і рэктарам брацкай школы (калегіума), вядомай з 1591, стаў *Лявонцій* Карповіч (1580—1620), потым — *Іосіф* Бабрыковіч і Мялецій *Сматрыцкі*. З манастыра выходзілі вядомыя дзеячы правасл. царквы і культуры: архімандрыты Кіева-Пячэрскай лаўры І.Трызна, С.Шыцік-Заленскі, мітрапаліт кіеўскі *Іосіф IV* Нелюбовіч-Тукальскі, настаяцелі бел. манастыроў. У 1617 для школы пабудаваны новы мураваны дом. У 1611 Б.Агінскі заснаваў філію манастыра ў Еўі (Вевіс) пры царкве Успення, падараваўшы свой Еўінскі двор (1619). Там з 1611 працавала *Еўінская друкарня*. Пад юрысдыкцыяй віленскага манастыра па ўмовах фундацый знаходзіліся 17 мужчынскіх і 2 жаночыя правасл. манастыры ў Менску, Пінску, Сяльцы каля Брагіна, Слуцку, Купяцічах, Новым Двары, Голдаве, Сурдзегах, Морачы і інш. У 1640-я г. братчык Л.Дравінскі аддаў манастыру Кенішаўскі фальварак пад Вільняй з цагельняю, Б.Ляўданская — фальварак Вайдацішкі-Ляўданшчыну. У 1603 пачалі мураваць званіцу, у 1633—38 з дазволу Уладзіслава IV пабудавана мураваная Святадухаўская царква. З 2-й пал. 17 ст. да 1686 манастыр перажываў заняпад і пазбавіўся некаторых уладанняў, згарэў у час пажару Вільні 1748. Брацтва існавала да 1796, адноўлена ў 1855. Манастыр моцна пацярпеў ад іншаземных войск у 1656, 1701—09, 1812, у 1826 пабудавана пячорная царква з мошчамі *Трох віленскіх мучанікаў*. У 19 ст. манастырская б-ка налічвала больш 300 кніг. Царква — адзін з першых крыжова-купальных храмаў перыяду ранняга барока, па тыпу касцёла св. Казіміра, з 2-вежавым фасадам; рэканструявана пасля пажару ў 1749—53 І.К.*Глаўбіцам*. Барочны выгляд фасада страчаны ў выніку перабудоў у 1821—25 І.Пусье і ў 1842—44 Т.Цішэцкім. У іканастасе, выкананым у стылі ракако (1749), 12 абразоў І.Трутнева (2-я пал. 19 ст.). У архітэктурны комплекс увахо-дзяць таксама асобна размешчаныя званіца, мужчынскі і жаночы карпусы, будынак для архімандрыта і брама.



Брама **Віленскага Святадухаўскага манастыра**.

*Літ.*: Смирнов Ф.К. Виленский Свято-Духов монастырь: Ист. описание. Вильно, 1888; П-ч [Панкевич] М. Виленское Свято-Троицкое, впоследствии Свято-Духовское, братство: (Ист. очерк). Вильна, 1891; Сцепуро Д. Виленское Св.-Духовское братство в XVII и XVIII столетиях // Тр. Киевской духовной академии. 1898. Т. 3; 1899. Т. 1—3.

*Аляксандр Ярашэвіч.*



Царква **Віленскага Святадухаўскага манастыра**.

**Віленскі Троіцкі манастыр.** У гіст. крыніцах упершыню ўпамінаецца ў канцы 15 ст. У 1584 пры манастыры заснавана правасл. братцтва, якое мела ўласную друкарню і духоўную школу. Напэўна, у канцы 16 — пач. 17 ст. побач з храмам пастаўлена вежа-званіца. У 1608 манастыр перададзены уніятам. У сувязі з гэтым правасл. брацтва перайшло ў пабудаваны ім *Віленскі Святадухаўскі манастыр*. У 1620 базыльяне на месцы драўлянага пабудавалі мураваны мужчынскі і жаночы кляштары. Першапачаткова яны былі раздзелены драўлянай, а з 1777 мурава-

най агароджай. Першым настаяцелем манастыра быў Іасафат *Кунцэвіч*. Архітэктурнай дамінантай манастыра з'яўляецца Троіцкая царква. Пастаўлена на месцы храма 14 ст. на сродкі віленскага кашталяна гетмана ВКЛ К.Астрожскага, які ў 1516 атрымаў дазвол на яе будаўніцтва ад вял. князя Жыгімонта I Старога. У 1622—24 да яе бакавых фасадаў прыбудавалі 2 капліцы і рызніцу. Справа ад уваходу была ўзведзена на сродкі віленскага ваяводы Я.С.Тышкевіча капліца, асвячоная ў гонар Пакрова Прасвятой Багародзіцы. Відаць, у канцы 19—пач. 20 ст. да ўсх. фасада гэтай



Царква **Віленскага Троіцкага манастыра**.

капліцы прыбудавана царква св. Іаана Багаслова. Злева ад ўвахода знаходзіцца капліца Узнясення Святога Крыжа, якая была прыстасавана пад царкву жаночага базыльянскага кляштара. Троіцкі храм быў моцна пашкоджаны пажарамі 1706 і 1748. У хуткім часе адноўлены ў барочным стылі. У 1792 яго зноў рамантавалі. На месцы зах. сцяны зрабілі прыбудову, якая надала інтэр'еру базілікальную падоўжанасць. У 1878 надбудаваны 2 вежачкі над вуглавымі кампартаментамі зах. часткі храма. Прамавугольная ў плане 3-нефавая пабудова заканчваецца 3 паўкруглымі апсідамі. Інтэр'ер перакрываюць крыжовыя скляпенні. Да паўн. і паўдн. фасадаў прымыкаюць капліцы. Па вуглах усх. часткі асноўнага аб'ёму ўзвышаюцца 2 вежы паўцыліндрычнай



Брама **Віленскага Троіцкага манастыра**.

формы. Храм накрыты 2-схільным дахам. У 1839 помнік перадалі правасл. духавенству. У 1823 першы паверх паўд. корпуса манастыра перароблены ў турму, яе вязнем быў А.Міцкевіч, пазней у ёй утрымліваліся ўдзельнікі паўстання 1830—31. У 1920-х г. у былым кляштары размяшчаліся правасл. духоўная семінарыя, бел. гімназія, навуковае т-ва і музей бел. культуры. Цяпер царква належыць уніяцкай укр. абшчыне. З вул. Вялікай у манастыр можна трапіць праз браму ў стылі позняга барока (арх. І.К.Глаўбіц, 1761).

*Літ*: Щербицкий О.В. Виленский Свято-Троицкий монастырь. Вильна, 1886; Добрянский Ф. Н. Старая и новая Вильна. Вильна, 1904. С. 129—134; Виноградов А. А. Путеводитель по городу Вильне и его окрестностям. Вильна, 1908. С. 66—72; Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 86—90; Слюнькова И.Н. Монастыри восточной и западной традиций: Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002. С. 51—52.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**віленскія гарадскія ўмацаванні.** Яшчэ ў 1387 Ягайла дазволіў мяшчанам будаўніцтва муроў. Але рэальна працы распачаліся толькі ў 16 ст. Сваім прывілеем ад 6.9.1503 Аляксандр абавязаў віленчукоў абнесці горад мурамі і вызваліў іх ад вайск. службы. На затрымку ў будаўніцтве паўплывала існаванне зручнай сістэмы *віленскіх замкаў* і адносна спакойнае 15 ст. Пачатак татарскіх наездаў і нарастанне пагрозы з боку Масквы, а таксама жаданне кантролю над усімі прыезджымі, у т.л. для



**Віленскія гарадскія ўмацаванні**. Рэканструяваная частка муру.



**Віленскія гарадскія ўмацаванні**. Брама Субач. Малюнак Ф.Смуглевіча. Канец 18 ст.

спраўнага атрымання мыта, прымусілі велікакняжацкія і гар. ўлады распачаць будоўлю агульнагар. фартыфікацыйных умацаванняў. Памылковая традыцыя датавання будаўніцтва ўмацаванняў 1497—1503 ідзе ад Т.Нарбута (1848), што даведзена Г.Лаўмянскім (1926). Працы 1-га этапу закончаны ў 1522. У абарончую сістэму былі ўключаны прыродныя аб'екты ваколіц Вільні . У той час акрамя муроў былі ўзведзены 5 брам: Спаская, Медніцкая (Вастрабрамская),



Да арт. **Віленскія гарадскія ўмацаванні**. Фрагмент муру.

Вілейская (Віленская), Троцкая, Замкавая. У далейшым колькасць брам павялічана да 7, а потым і да 10: Рудніцкая, Субач, Татарская, Мокрая (Марыі Магдалены), Бернардзінская. Збудаваны 2 вежы — Рудніцкая (Круглая) і Спаская, а таксама Барбакан (гл. *Віленскі артылерыйскі бастыён*). Усе гэтыя аб'екты, як сведчыць план умацавання Вільні Ф.Гетканта, пабудаваны да 1648. Пры ўзвядзенні муроў выкарыстаны пераважна камень, радзей цэгла. Вышыня муроў 6,5 м, таўшчыня 0,9—1,4 м. Невял. таўшчыня муроў пацвярджае меркаванне, што яны ўзведзены пераважна для абароны ад татараў, якія не былі здольныя да аблог. Муры мелі наверсе амбразуры для стральбы і драўляныя галерэі з унутр. боку. Цалкам лінія муроў не лакалізавана. Спрэчнай застаецца версія пра спалучэнне гар. муроў з замкамі. Пасля таго, як у 1655 войскі цара Аляксея Міхайлавіча занялі Вільню, гар. ўмацаванні адноўлены, каля 1600 горад абнесены другой лініяй сцяны з драўлянага частаколу. У крас. 1702 войскі Карла XII узялі Вільню, шведы ўмацавалі вежы брамаў. У 1748 усх. частка муроў пашкоджана пажарам. Магістрат не патурбаваўся пра іх аднаўленне, а нават дазволіў разбор муроў. Апошні раз гар. ўмацаванні штурмаваліся рас. войскамі ў час паўстання 1794 (ліп.—жн. 1794). 1.9.1799 рас. імператар Павел I падпісаў загад пра разбурэнне муроў, разборка якіх завершана ў 1805. Ацалелі толькі фрагменты, спалучаныя з гар. забудовай. На сёння з сістэмы ўмацаванняў захаваліся фрагменты муроў (каля 500 м), Вострая (Медніцкая) брама, артылерыйскі бастыён.

*Літ.*: Narbutt T. Obwarowanie miasta Wilna murem obronnym // Athenaeum. Wilno, 1848. T. 3; Łowmiański H. Sfałszowany opis obwarowania m. Wilna // Ateneum Wileńskie. 1926, Z. 9; Łowmiańska M. Wilno przed najazdem moskiewskim 1655 roku. Wilno, 1929; Żytkowicz I. Zburzenie murów obronnych Wilna (1799—1805). Wilno, 1933; Lorentz S. Mury obronne Wilna // Kurier Wileński. 1934, №. 232, 233; Jučienė I., Levandauskas V. Vilniaus miesto gynybinė siena. Vilnius, 1979 [рэцэнзія: Wisner H. // Zeszyty historyczne. 1986. Z. 1; Lietuvos architektūros istorija. T. 1. Vilnius, 1988. P. 210—216; Drėma V. Dingęs Vilnius. Vilnius, 1991. P. 133—144; Defensive Fortifications in Lithuania. Vilnius, 2001. P. 34—36, 90—91.

***Алег Дзярновіч.***

**віленскія замкі,** комплекс мураваных замкаў, дзе ў 14—сярэдзіне 17 ст. знаходзілася рэзідэнцыя вялікіх князёў ВКЛ, іншыя цэнтральныя адміністрацыйныя інстытуты 14—18 ст. Складаўся з Верхняга (Горнага) і Ніжняга (Дольнага) замкаў. З Пн тэрыторыю комплексу абмяжоўвае р. Вілія, з У — р. Вільня. Паводле археал. даследаванняў вядома, што ўмацаванае гарадзішча на Замкавай гары існавала ўжо ў 1-м тыс. да н.э. Паселішча каля падножжа гары ў 11—13 ст. мела абарончую сістэму, у якую разам з прыроднымі аб'ектамі ўваходзілі драўляныя і земляныя ўмацаванні. У канцы 13—пач. 14 ст. паселішча каля гары было пераўтворана ў Ніжні замак. У пач. 14 ст. большасць прасел мураваных сцен былі ўжо пабудаваны; іх вышыня дасягала 9—10 м, таўшчыня 1,7—3,1 м. Муры мелі працягласць больш за 1 км, утваралі



Да арт. **Віленскія замкі**. Вежа Гедзіміна на Верхнім замку.



Да арт. **Віленскія замкі**. Руіны велікакняжацкага палаца на Верхнім замку.


**Віленскія замкі**. Рэканструкцыя.


Да арт. **Віленскія замкі**. Званіца кафедральнага касцёла (ніжні ярус — абарончая вежа Ніжняга замка).

нерэгулярны, паліганальны план. Большасць вежаў мелі 2-баковы вынас, знаходзіліся на значнай адлегласці адна ад адной. Самая стараж. мураваная вежа Ніжняга замка мела квадратны план (13,5 × 13,5 м), рэшткі яе захаваліся пад падмуркам званіцы *Віленскага кафедральнага касцёла Станіслава і Уладзіслава*. Першае ўпамінанне В.з. датуецца 2.10.1323 у пасланні вял. кн. Гедзіміна да Нямецкага ордэна і Рыгі. Мяркуецца, што мураваныя сцены Верхняга замка на Гедзімінавай (Замкавай) гары былі ўзведзены ў 1-й пал. 14 ст. і паводле загаду вял. кн. Вітаўта перабудаваны на пач. 15 ст. (магчыма, пасля моцнага пажара 1419). Цяпер вышыня Замкавай гары дасягае 48 м, замак займае пляцоўку памерамі 110—120 × 50—60 м, даўжыня сцен складала 320 м. У 2-й пал. 14—пач. 15 ст. ва ўсх. частцы замка пабудаваны 3-павярховы гатычны велікакняжацкі палац, руіны якога захаваліся. У сістэму Верхняга замка ўваходзілі квадратныя паўн. і паўд. мураваныя вежы, 8-гранная зах. (захавалася, вядома пад назвай Вежы Гедзіміна), а таксама брамная на паўн. частцы мура. Пасля 1387 у паўд.-зах. куце Ніжняга замка пабудаваны кафедральны касцёл і палац віленскіх біскупаў, у далейшым гэта частка замка афармляецца разам з рэзідэнцыямі вікарыя і віленскай капітулы ў царк. функцыянальную зону замка. У 15—пач. 16 ст. пад званіцу сабора прыстасавана старая абарончая вежа. Каля зах. падножжа Замкавый гары на мяжы 13—14 ст. пабудаваны мураваны палац; у 15 ст. на гэтым месцы знаходзілася некалькі гатычных пабудоў, якія ў 1-й пал. 16 ст. былі ўключаны ў новую велікакняжацкую рэзідэнцыю, пабудаваную ў стылі рэнесансу (гл. *Віленскі велікакняжацкі палац*). У сярэдзіне 16 ст. паўн. частка Ніжняга замка аформілася як арсенальная; у пач. 17 ст. арсенал (цэйхгаўз) складаўся з 3 асноўных карпусоў. На поўнач ад велікакняжацкай рэзідэнцыі ў Ніжнім замку ў канцы 14 ст. пабудаваны гатычны касцёл св. Ганны, у 1551 па ініцыятыве караля і вял. князя Жыгімонта II Аўгуста перабудаваны ў новы касцёл св. Ганны і св. Барбары. Летам 1655 войскі рас. цара Аляксея Міхайлавіча авалодалі В.з. Войскі Рэчы Паспалітай 11.7.1660 вярнулі горад, але баі за замкі працягваліся да пач. снежня 1661. У час войнаў сярэдзіны 17 ст. ўсе пабудовы В.з. моцна пацярпелі, у далейшым былі адноўлены толькі кафедральны сабор, біскупскі палац, арсенал. На захад гал. паўд. брамы (Замкавай) знаходзіўся будынак Галоўнага трыбунала ВКЛ. У 1800—01 рас. уладамі былі знесены руіны велікакняжацкага палаца. У 1831 тэрыторыя В.з. ўключана ў склад цытадэлі з валамі, бастыёнамі і ровам, тады былі знесены будынкі Трыбунала, біскупскага палаца і капітула. У 1878 цытадэль


**Віленскія замкі**. Фрагмент гравюры Ф.Гогенберга з атласа Г.Браўна «Гарады свету». Кёльн, 1581.

страціла сваё значэнне і была ліквідавана, у 1881—84 знесены валы, засыпаны равы, на частцы тэр. Ніжняга замка разбіты парк. Кансервацыя руін Верхняга замка праводзілася на пач. 20 ст., а таксама ў 1930—36 (пад кіраўніцтвам С.Лорэнца і У.Бартноўскага). У 1948—50 рэстаўрыравана Гедзімінава вежа на Замкавай гары (у 1960 там адкрыты музей В.з.). У 1965 у рэканструяваным Новым арсенале пачаў дзейнічаць Гісторыка-этнаграфічны (цяпер Нацыянальны) музей. У адрэстаўрыраваным Старым арсенале адкрылася экспазіцыя Музея дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. З канца 1980-х г. вядуцца працы па рэканструкцыі і далейшай музеіфікацыі Ніжняга замка, адноўлены паўн. муры і паўн. будынак арсенала, дзе пачала дзейнічаць археал. экспазіцыя (Музей прагісторыі Літвы). Літоўскія археолагі і архітэктары ў 2-й пал. 20 ст. актыўна даследавалі тэрыторыю В.з.: В.Даўгудзіс, І.Ючэне, С.Паткаўскас (Верхні замак, 1955—1970-я г.), А.Таўтавічус, Н.Кіткаўскас (Ніжні замак і вялікакняжацкі палац, 1955—2003), А.Лісанка, Даўгудзіс (арсенал, 1978—83).

*Літ.*: Kieszkowski W. Dolny zamek wileński // Arkady. 1937. № 10; Bortnowski W. Przegląd prac konserwacyjnych na górze Zamkowej w Wilnie w latach 1930—1936 // Ateneum Wileńskie. 1938, Rocz. 13, zesz. 1; Tautavičius A. Vilniaus pilies kokliai (XVI—XVII a.) = Изразцы Вильнюсского замка (XVI—XVII вв.). Vilnius, 1969; Lietuvos pilys. Vilnius, 1971. P. 25—76; Будрейка Э. Вильнюсский замок. Вильнюс, 1980; Kitkauskas N. Vilniaus pilys: statyba ir architektūra. Vilnius, 1989; Drėma V. Dingęs Vilnius. Vilnius, 1991. P. 82—131; Вайцэховіч З. Віленскія замкі. Мн., 2000; The Castles of Vilnius. Vilnius, 2000.

***Алег Дзярновіч.***

**віленскія мучанікі**, гл. *Тры віленскія мучанікі.*

**«віленскія якабінцы»**, група арганізатараў і ўдзельнікаў шляхецка-буржуазнага блока на Беларусі і ў Літве ў час *паўстання 1794*, якая выступала за рэвалюцыйныя сацыяльна-палітычныя пераўтварэнні. Назву «якабінцы» ў дачыненні да рэвалюцыйна настроеных удзельнікаў паўстання ў Польшчы і ВКЛ (Варшава, Кракаў, Вільня) ужывалі іх паліт. праціўнікі (рас. імператрыца Кацярына II, кіраўнікі Таргавіцкай канфедэрацыі) у прапагандысцкіх мэтах, каб дыскрэдытаваць паўстанцаў, абвінавацііўшы іх у прыхільнасці да тэрору. Да «В.я.» належалі пераважна вайскоўцы — гал. чынам афіцэры шляхецкага паходжання, часткова выхадцы з інш. саслоўяў, сярод іх: Я.*Ясінскі* (кіраўнік), П.Грасманi, А.Гушкоўскі, Ю.Гарноўскі, М.Шульц, К.Эльснер, М.Карповіч і інш. Блізкімі да поглядаў «В.я.» былі віцэпрафесар Гал. школы ВКЛ М.Тамашэўскі, ксёндз Ф.К.*Богуш*, праф. Гал. школы і Корпуса інжынераў В.Гугевіч. Адным з самых радыкальных дзеячаў «В.я.» лічыўся І.Хадзкевіч (Хацкевіч), на якога, аднак, падае падазрэнне ў супрацоўніцтве з рас. тайнай паліцыяй і здрадніцкім выкрыцці напярэдадні паўстання найб. актыўных яго арганізатараў. «В.я.» адкрыта і недвухсэнсоўна падтрымлівалі высакародныя мэты Вял. французскай рэвалюцыі 1789—94, выказвалі надзею на дапамогу з боку рэв. Францыі, якая «жадае паўстання нашага». «В.я.» толькі часткова падтрымлівалі грамадска-паліт. імкненні якабінцаў Францыі: выступалі за скасаванне паншчыны і паступовую ліквідацыю прыгонніцтва, адмену саслоўных абмежаванняў для мяшчан, выказваліся за рэсп. лад у дзяржаве, за братэрства народаў, заклікалі да ўсеагульнай барацьбы з тыраніяй. У канкрэтна-гіст. умовах Рэчы Паспалітай гэтыя лозунгі набывалі выразна рэв. характар. Па ініцыятыве «В.я.» у ноч на 23.4.1794 пачалося паўстанне ў Вільні, яны ўвайшлі ў часовы рэв. ўрад Літвы і Зах. Беларусі — *Найвышэйшую Літоўскую раду*. Аднак істотна ўплывалі на ход паўстання толькі на яго 1-м этапе (крас.—май 1794). Вузкасць сац. базы з-за слабасці т.зв. «трэцяга саслоўя» не дазволіла «В.я.» дастаткова развіць сваю рэв. ідэалогію, стварыць з'яднаную групу і працягваць кіраваць паўстаннем на Беларусі і ў Літве. Гіст. заслуга «В.я.» заключаецца ў тым, што яны паклалі пачатак радыкальна-дэмакр. плыні ў вызваленчым руху на Беларусі, заклікалі да братэрства народаў у барацьбе за незалежнасць і сац. пераўтварэнні.

*Літ.*: Francic M. Insurekcja Kościuszkowska. Kraków, 1988; Leśnodorski B. Polscy jakobini. Warszawa, 1960; Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; Karpiński F. Historia mego wieku i ludzi, z ktorymi żyłem. Warszawa, 1987.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Вілентас** (Вілент, Vilentas, Willent) Балтрамеюс (каля 1525—крас. 1587), літоўскі рэлігійны і культурны дзеяч. Жыў у Прускім герцагстве. Каля 1544—49 вучыўся ў Каралявецкім (Кёнігсбергскім) ун-це. З 1550 пастар каралявецкай літоўскай лютэранскай парафіі. Пераклаў на літ. мову Евангелле («Evangelijos bei epistolos», 1579), «Катэхізіс» М.Лютэра («Enchiridionas», 1575). Выдаў падрыхтаваныя яго стрыечным братам М.*Мажвідасам* «Хрысціянскія песнапенні» («Giesmės krikščioniškos», ч. 1—2, 1566—70), 2 уласныя пераклады песен. Перакладам В. карысталіся наступныя перакладчыкі Евангелля Ё.Брэткунас, М.Даўкша, Ё.Якнавічус. Навук. выданне перакладаў В. ажыццявілі ў 1882 Ф.Бехтэліс і А.Бецэнбергер.

*Літ.*: Ford G.B. Old Lithuanian Catechism of Baltramiejus Vilentas (1579). The Hague; Paris, 1969.

**Вілімас** (Vilimas) Дарус (н. 12.6.1966, г. Каўнас), літоўскі гісторык. Д-р гуманітарных навук (2003). Скончыў Вільнюскі ун-т (1992). З 1993 працуе ў Ін-це гісторыі Літвы. Даследуе гісторыю дзярж. установаў ВКЛ, шляхты, Метрыкі ВКЛ. Падрыхтаваў да публікацыі пераклад на літ. мову «Успамінаў» Ф.Еўлашоўскага (Вільнюс, 1998; аўтар уступнага артыкула, каментарыяў, складальнік імяннога і геагр. паказальнікаў).

*Тв.*: Михалон Литвин и Теодор Евлашевский — два взгляда на судебную реформу 1564—1566 года // Наш радавод. Гродна, 1996. Кн. 7; Seniausios Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismų knygos (iki 1589 m.) Baltarusijos Nacionalinio istorijos archyvo fonduose Minske // Lituanistica. 1998. № 3; Seniausios Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismų knygos (iki 1589 m.) Lietuvos Respublikos archyvuose // Lietuvos Metrika: 1991/1996 metų tyrinėjimai. Vilnius, 1998; Dėl pirmojo LDK pavietų pareigūnų sąrašo // Lietuvos istorijos metraštis. 2000 metai. Vilnius, 2001; LDK pavietų žemės teismų pareigūnai: Pirmoji pavietų bajoriškųjų juristų karta // Lituanistica. 2002. № 4; Принцип справедливости и судебная власть в историческом процессе: (земские суды Великого Княжества Литовского конца XVI в. и их роль в разрешении общественных противоречий) // Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі. Мн., 2003. Кн. 2.

**Вілкавішкіс** (Vilkaviškis), горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр раёна ў Марыяпальскім пав., гл. *Ваўкавішкі.*

**Вількамір** (літ. Укмярге, Ukmergė, цяпер горад, цэнтр Укмяргскага р-на Вільнюскага пав., Літоўская Рэспубліка), горад, цэнтр павета ў Віленскім ваяв.,



на р. Швянтойі. Упамінаецца з 13 ст. У 13—15 ст. на В. неаднаразова нападалі крыжакі. З 1385 упамінаецца як цэнтр валасці. У 1387 у В. пабудаваны касцёл і заснаваны адзін з першых у Літве каталіцкіх прыходаў. З канца 14 ст. ўпамінаецца *Вількамірскі павет*. У пач. 15 ст. ўзведзены замак. Каля В. адбылася *Вількамірская бітва 1435*. Горад моцна пацярпеў у вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і Паўн. вайну 1700—21. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Вількамірская бітва 1435**. Адбылася 1 вер. на р. Святая (Швянтойі) каля г. Вількамір у ходзе *феадальнай вайны 1432—39* паміж войскамі вял. кн. Свідрыгайлы і Інфлянцкага ордэна з аднаго боку і вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча і палякаў з другога. Летам 1435 Свідрыгайла сабраў значнае войска на бел. і ўкр. землях, Смаленшчыне. У яго склад уваходзіў невял. татарскі аддзел. Саюзнае крыжацкае войска ўзначальваў магістр Інфлянцкага ордэна, да якога далучыліся кн. Жыгімонт Карыбутавіч з чэхамі і сілезцамі і заходнееўрапейскія рыцары. Паводле ацэнак даследчыкаў, яно налічвала крыху больш за 10 тыс. чал. пры невял. колькаснай перавазе русінаў і складалася пераважна з цяжкой конніцы, а таксама невял. пешага кантынгенту. Пасля злучэння ў раёне Браслава саюзнікі рушылі на З і захапілі Вількамір, пасля чаго планавалі, відаць, наступленне на Трокі і Вільню. Армія іх праціўнікаў складалася з літ.-жамойцкага войска Жыгімонта Кейстутавіча і пасланага яму на дапамогу з Польшчы корпуса на чале з Якубам Кабылянскім. Яно не перавышала 10 тыс. чал. конніцы, польскі і літ.-жамойцкі кантынгенты налічвалі прыкладна роўную колькасць ваяроў. Гэтае войска рухалася з Трокаў на Вількамір. Сутыкненне адбылося прыкладна за 10 км на Пд ад горада, на левым беразе Святой. Ключавым момантам бітвы была атака польска-літ. конніцы, якая разбурыла табар, пабудаваны праціўнікам на чэшскі ўзор, пасля чаго распачалося змаганне на флангах. Бітва працягвалася каля гадзіны і прывяла да панікі, а потым і ўцёкаў войска Свідрыгайлы і крыжакоў. Адной з прычын іх няўдачы было тое, што частка русінска-інфлянцкага войска спазнілася і не паспела заняць сваё месца ў баявых парадках. У час бітвы і асабліва ўцёкаў пераможаныя панеслі велізарныя страты. Загінулі інфлянцкі магістр Франц фон Кірскорф і многія комтуры, 13 князёў, яшчэ 43 былі ўзяты ў палон, у т.л. смяротна паранены Жыгімонт Карыбутавіч. Сам Свідрыгайла з невял. дружынай здолеў уцячы ў Полацк. Бітва стала пераломам у вайне. Пасля яе, страціўшы ўплыў на бел. землях і Смаленшчыне, Свідрыгайла ўжо не здолеў аднавіць свае пазіцыі. Перамога пад Вількамірам дала магчымасць Польшчы заключыць 31.12.1435 у Брэсце-Куяўскім «вечны міра» з Тэўтонскім ордэнам.

*Літ.*: Lewicki A. Powstanie Swidrygiełły. Kraków, 1892; Zakrzewski S. W pięćsętną rocznicę: Bitwa nad Swiętą, inaczej pod Wiłkomierzem, dnia 1 września 1435 r. // Pamiętnik VI Zjazdu historyków polskich w Wilnie. Lwów, 1935. T. 1; Skrzypek J. Bitwa nad rzeką Swiętą: Studium historyczno-wojskowe // Przegląd historyczno-wojskowy. 1938. Z. 1; Полное собрание русских летописей. Т. 32, 35. М., 1975, 1980; Dlugossius J. Annales seu Cronicae Incliti Regni Poloniae. Libri XI et XII. Varsaviae, 2001.

***Васіль Варонін.***

**Вількамірскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Узнік у якасці судовай і ваеннамабілізацыйнай акругі (валасці, харужаства) не пазней за 1380-я г. Цэнтр— г. *Вількамір*. З 1413 у *Віленскім ваяводстве*. Пад назвай «павет» выступае ў попісе войска 1528, калі шляхецкае апалчэнне В.п. налічвала 418 коннікаў (з іх 187 былі дробнымі шляхціцамі, якія ішлі ў войска асабіста, без слуг). У 1565—66 В.п. павялічаны за кошт далучэння Анікштынскага, Курклеўскага, Пенянскага, паўн. часткі Гедройцкага харужастваў, дзяржаўнай Ушпольскай валасці. У гэты час уведзены пасады павятовага маршалка, падкаморага, земскага суддзі з падсудкам і пісарам. У 1567 апалчэнне В.п. налічвала 653 коннікі і 3 пешых шляхціцаў. Плошча В.п. склала з гэтага часу каля 9,9 тыс. км$^2$ (польскія даследчыкі трымаюцца лічбы 9 тыс. км$^2$), ляжаў цалкам на тэр. сучаснай Літвы. У павеце існавалі буйныя вотчыны Радзівілаў (Віжуны, Дусяты, Саламесць, Свядасць, Солы) і роднасных ім Осцікавічаў (Аванта), а таксама значныя дзярж. стараствы (Анікшты, Больнікі, Вількамір, Купішкі, Курклі, Пеняны, Ушполь). У сярэдзіне 17 ст. налічвалася 20,4 тыс. дымоў (адпавядае колькасці насельніцтва каля 135—140 тыс. чал.), на 1667 колькасць дымоў панізілася да 15,8 тыс. Насельніцтва ў апошняй чвэрці 18 ст. — каля 150—170 тыс. чал. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) далучаны да Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**вількер** (ад ням. Willekür), пастанова (статут), прынятая на агульнагарадскім сходзе мяшчан або сесіі магістрата, якая мела моц закона. У польскай традыцыі іх часам называлі плебісцытамі, на лац. мове — лаўдумамі. Магістраты ў судовай, эканам. і адм. дзейнасці абавязаны былі выконваць артыкулы В. Гэтыя пастановы звычайна збіраліся і заносіліся ў спец. кнігу. Найб. вядомы В. Оршы, які быў ухвалены на агульнагар. сходзе ў 1621 (захоўваецца ў Рас. дзярж. архіве стараж. актаў). Гэты гар. статут складаецца з 36 артыкулаў, якія рэгламентуюць суд. справаводства, парадак прыняцця выракаў і іх выкананне. Аршанскі В. удакладняе нормы магдэбургскага права, дапаўняе іх нормамі, якія былі прадыктаваны часам і канкрэтнымі ўмовамі развіцця гар. права Оршы. У прадмове да В. гаворыцца пра ўдакладненне асобных норм магдэбургскага права на аснове Статута ВКЛ 1588 і В. сталічных гарадоў Вільні і Кракава. У асобных выпадках аршанскі статут абапіраецца на нормы звычаёвага права (гл. *Аршанскае права*). У Магілёве падатковыя В. прыняты ў 1589 і дзейнічалі да 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772). У Берасці В. называлі цэхавыя статуты, якія зацвярджаў (надаваў) войт горада (адначасова берасцейскі ваявода).

*Літ.*: Горбачевский Н. Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского. Вильна, 1874; Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975.

***Зміцер Яцкевіч.***

**Вільнюс** (Vilnius), сталіца Літоўскай Рэспублікі, гл. *Вільня*.

**Вільня** (літ. Вільнюс, Vilnius, цяпер сталіца Літоўскай Рэспублікі), сталіца ВКЛ, у сутоках рэк Вілія (Нярыс) і Вільня (Вільна, Віленка, Вілейка). Умацаванае паселішча ў цэнтры В., на Замкавай гары, каля сутокаў Вільні і Віліі (пазнейшы Верхні замак, гл. ў арт. *Віленскія замкі*) існавала ўжо ў 1-м тыс. да н.э., пасля гара была заселена з пачатку н.э. да 17 ст. Паўн. падножжа Замкавай гары заселена ў 13 ст. Датаванне некат. даследчыкамі рэштак мураваных пабудоў на ПдЗ ад гары 13 ст. (у іх бачаць язычніцкае культавае месца і кафедральны касцёл

Міндоўга) патрабуе дадатковых аргументаў. У сярэдзіне—2-й пал. 14 ст. вырасла паселішча каля Лысай гары, на У ад Замкавай гары. У 3-й чвэрці 14 ст. падножжа Замкавай гары абведзена мурам (Ніжні замак). На Пд ад яго з 2-й чвэрці 14 ст. рос неўмацаваны пасад з рыначнай плошчай. Упершыню В. ўпамінаецца ў граматах вял. князя *Гедзіміна* 25.1.1323 да ганзейскіх гарадоў. Тут быў заключаны мірны *дагавор 1323* ВКЛ з Лівонскім ордэнам і г. Рыга. Ужо ў гэты час В. мела статус сталіцы ВКЛ (паводле бел.-літ. летапісаў, сталіцу ВКЛ з Трокаў у В. перанёс Гедзімін). В. адыгрывала важную ролю ў барацьбе з крыжакамі, якія ў 1365—1402 8 разоў яе штурмавалі. Пры апісанні нападу 1390 у крыніцах адзначаецца драўляны Крывы замак (горад), спалены крыжакамі. Месцазнаходжанне яго невядома, даследчыкі лакалізавалі гэты замак на Лысай гары (на правым беразе Вільні), на гары Бекеша або на гары Бакшта. Пабач з літоўцамі ў В. здаўна жылі інш. народы. У 1383 упамінаецца «Рускі горад» —частка пасада на У ад пазнейшай вул. Замкавай (Вялікай). Да канца 18 ст. гэты раён вядомы як юрыдыка праваслаўных



Герб **Вільні**.

(уніяцкіх) мітрапалітаў. Пра існаванне ў В. нямецкага і яўрэйскага насельніцтва сведчаць вуліцы Нямецкая і Жыдоўская. У летапісах 15 ст. ўпамінаецца Ляцкі канец, населены, відаць, палякамі.

22.3.1387 В. першая ў ВКЛ атрымала магдэбургскае права, аднак адміністрацыйна працягвала падпарадкоўвацца велікакняжацкаму намесніку. Горад пачаў выкарыстоўваць герб з выявай св. Хрыстафора, які пераходзіць цераз раку, з дзіцём-Ісусам на плячах. Вял. кн. Жыгімонт Кейстутавіч у 1432 пашырыў правы В. на самакіраванне. Гар. статут (ардынацыю) выдаў у 1536 вял. кн. Жыгімонт Стары, у 1551 горад прыняў *вількер*, дзе больш падрабязна рэгламентавалася гар. права. Перасяленне ў горад залежных людзей рабіла іх вольнымі, таму шляхта дамагалася вяртання з В. збеглых сялян. У 1538 вял. князь забараніў шляхце выводзіць з В. сваіх былых сялян, калі тыя пражылі ў сталіцы 6 гадоў (хутка тэрмін быў павышаны да 10 гадоў). Вышэйшым органам адміністрацыйнай улады В. быў магістрат, які складаўся з лавы і рады. Ён узначальваўся войтам, які прызначаўся манархам пажыццёва (з 1610 — з ліку 4 кандыдатаў, што прапаноўваліся магістратам). Як судовы орган разам з войтам або без яго дзейнічала лава; судовую справу звычайна разглядалі 2 лаўнікі, абраныя на 1 год. Рада складалася з 12 бурмістраў і 24 райцаў, якія пораўну падзяляліся на «лавіцу рускую» і «лавіцу рымскую» (праваслаўных, пазней уніятаў, і каталікаў). У цэнтры пасада, на ратушнай плошчы, стаяла ратуша (упершыню ўпамінаецца ў 1432).

Зімой 1386—87 літ. язычніцкае насельніцтва В. было ахрышчана паводле




**Вільня**. Дрэварыт Ф.Гогенберга з атласа Г.Браўна «Гарады свету». Кёльн, 1581.




**На плане пазначаны**: А - Верхні замак; Б - Ніжні замак; В - Рынак; Г - Рыбакі; Д - Антокаль; Е - Заручча; Ж - Субач; З - Роса; І - Лукішкі.

**Брамы**: 1 - Замкавая; 2 - Марыі Магдалены; 3 - Татарская; 4 - Вілейская; 5 - Троцкая; 6 - Рудніцкая; 7 - Вострая (Медніцкая); 8 - Субач; 9 - Спаская; 10 - Бернардзінская.

**Вежы**: 11 - водазаборная; 12 - Круглая; 13 - Спаская.

**Цэрквы**: 14 - Прачысценскі сабор; 15 - Спаская; 16 - Кацярынінская; 17 - Пакроўская; 18 - Іванаўская; 19 - Міхайлаўская; 20 - Мікалаеўская (Успенская); 21 - Ільінская; 22 - Раждзественская; 23 - Пятніцкая; 24 - Мікалаеўская (Перанясенская); 25 - Васкрасенская; 26 - Казьмадзям'янаўская; 27 - Святадухаўская; 28 - Троіцкая; 29 - Петрапаўлаўская; 30 - Юр'еўская.

**Касцёлы**: 31 - кафедральны Станіслава і Уладзіслава; 32 - Ганны і Барбары; 33 - Марыі і Магдалены; 34 - Ганны; 35 - бернардзінскі Францішка і Бернарда (мужчынскага кляштара); 36 - бернардзінскі Міхала Арханґела (жаночага кляштара); 37 - Мікалая; 38 - францысканскі Унебаўзяцця Дзевы Марыі; 39 - дамініканскі Св.Духа; 40 - Св.Тройцы; 41 - езуіцкі Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста; 42 - Св.Крыжа (пазней баніфратраўскі); 43 - Георгія (кармеліцкі).

**Палацы**: 44 - велікакняжацкі; 45 - віленскіх біскупаў; 46 - Радзівілаў (Кардыналія); 47 - Радзівілаў; 48 - Хадкевічаў; 49 - Сапегаў.

**Іншыя пабудовы**: 50 - ратуша; 51 - акадэмія; 52 - кальвінскі збор; 53 - лютэранскі збор; 54 - сінагога.

Аўтар В.С.Пазднякоў

каталіцкага абраду. Паводле загаду Ягайлы быў загашаны вечны агонь на капішчы. Каля Ніжняга замка быў пабудаваны кафедральны касцёл св. Станіслава і св. Уладзіслава (на месцы больш ранняга касцёла). В. стала цэнтрам *Віленскай рымска-каталіцкай епархіі*. Да пач. 16 ст. пабудаваны касцёлы Унебаўзяцця Дзевы Марыі і св. Ганны (францысканскія), Св. Духа (дамініканскі), св. Бернарда (бернардзінскі), св. Мікалая, св. Яна Хрысціцеля і св. Яна Евангеліста, св. Ганны. З пач. 15 ст. ў В. знаходзілася рэзідэнцыя правасл. мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі, які меў кафедру ў Прачысценскім саборы. Іншыя старажытнейшыя цэрквы В. — Пятніцкая, Мікалаеўская, Троіцкая. У пач. 16 ст. ў В. было 14 цэркваў і 8 касцёлаў.

У 1401 у В. падпісаны акт *Віленска-Радамскай уніі 1401*. З 1413 цэнтр *Віленскага ваяводства*. В. наведаў чэшскі рэфарматар, паплечнік Я.Гуса *Еранім Пражскі*. У 1430 у В. адбыўся з'езд манархаў, прымеркаваны да запланаванай каранацыі Вітаўта каралеўскай каронай. З 15 ст. ў горадзе скліkaліся вальныя соймы ВКЛ. У 2-й пал. 15 ст. створаны першыя рамесныя цэхі (у пач. 16 ст. іх было больш за 20), віленскія купцы атрымалі права свабоднага гандлю ў ВКЛ. У 1492 засн. *Віленскі манетны двор*. У пач. 16 ст. ў сувязі з небяспекай з боку крымскіх татараў і маскоўскіх войск пасад быў абнесены мурам з вежамі і брамамі (гл. *Віленскія гарадскія ўмацаванні*), з паўд. боку горада пабудавана *Віленская Вострая брама*, у якой пазней зберагаўся *Вастрабрамскі абраз Маці Божай*. Паводле ацэнак даследчыкаў, насельніцтва В. ў 15 ст. складала ад 10 да 20 тыс. чал., у пач. 16 ст. налічвалася каля 30 тыс. жыхароў. У 16 ст. ў горадзе каля 100 2- і 3-павярховых камяніц, зроблены водаправод і каналізацыя, пабудаваны папернія (1524), гасціны двор (да 1536), арсенал (каля 1540), шкляная гута (1547), людвісарня, дзе адліваліся гарматы і званы. З'явіліся палацы Радзівілаў, Хадкевічаў, Сапегаў, Астрожскіх, Кішкаў і інш. магнатаў. У 1536 цераз Вілію перакінуты першы мост. У горадзе быў гандлёвы порт. В. стала буйным еўрапейскім цэнтрам гандлю і культуры. У канцы 15 ст. тут жылі гуманісты *Войцех з Брудзева* і Э.Цёлак (Вітэлій). У 1520-я г. на Ніжнім замку пабудаваны *Віленскі велікакняжацкі палац*, дзе зберагалася





**Вільня**.
Троіцкі касцёл. 15—18 ст.



**Вільня**. Фрагмент дома
на вул. Нямецкай. 16 ст.



**Вільня**.
Лютэранская кірха. 17—18 ст.

вял. бібліятэка. У В. адчыніў друкарню Ф.*Скарына*, які надрукаваў тут «Малую падарожную кніжку» (каля 1522) і «Апостал» (1525). Пасля доўгага перапынку кірылічнае кнігадрукаванне ў В. працягнула *Віленская друкарня Зарэцкіх* (каля 1571). У 1570-х г. у В. заснаваў друкарню П.*Мсціславец*. У 1583 пачала дзейнічаць *Віленская друкарня Мамонічаў*, дзе выдадзены статут Трыбунала ВКЛ (1586), Статут ВКЛ 1588 і інш. З канца 16 дзейнічалі *Віленская акадэмічная друкарня* і *Віленская брацкая друкарня*, з пач. 17 ст. — *Віленская базыльянская друкарня*. У 17—18 ст. у В. працавала каля 20 друкарняў, якія выпускалі кнігі на бел., царк.-слав., польскай, лацінскай, літ., латышскай, яўрэйскай і інш. мовах. У 1595 у В. выйшаў «Катэхізіс» М.*Даўкшы* — першая кніга на літ. мове, выдадзеная на тэр. ВКЛ. У 1570 езуіты адчынілі калегіум, які ў 1579 пераўтвораны ў *Віленскую акадэмію*. У 1582 адчынена каталіцкая *Віленская духоўная семінарыя* для падрыхтоўкі святароў Віленскага біскупства. Акрамя каталіцкіх, у 1-й пал. 17 ст. ў В. дзейнічалі правасл., уніяцкія, лютэранская, кальвінская і яўрэйскія школы. Трупа італьянскага кампазітара М.Скакі паказала ў В. першыя оперныя пастаноўкі (1634).

У 1559 і 1561 у В. заключаны дагаворы пра падпарадкаванне ВКЛ Інфлянтаў. Мяшчанства В. першапачаткова не мела прадстаўніцтва на соймах. Упершыню прадстаўнікі ад сталіцы ВКЛ прыбылі на сойм 1564, які працаваў у Варшаве і дзе разглядаліся пытанні заключэння уніі паміж Польшчай і ВКЛ. Паслы ад В. ўдзельнічалі і ў Бельскім сойме 1564. На Гарадзенскім сойме 1568 вял. кн. Жыгімонт Аўгуст выдаў В. прывілей, згодна з якім сталіца атрымала права пасылаць на сойм 2—3 паслоў з дарадчым голасам у тых справах, якія датычылі горада. Паслы выбіраліся з членаў магістрата, таму ўсе члены магістрата



**Вільня**.
Размалёўка камяніцы
на вул. Нямецкай. 16 ст.

атрымлі шляхецтва з правам перадаваць яго ў спадчыну (з абмежаваннямі). Пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 і смерці Жыгімонта Аўгуста (1572) статус В. як сталіцы значна абмежаваны. Сталай рэзідэнцыі манархаў Рэчы Паспалітай тут не існавала. З канца 16 ст. ў В. замест вальных соймаў збіраліся *галоўныя з'езды Вялікага княства Літоўскага*, а таксама кадэнцыі Трыбунала ВКЛ (нараўне з Трокамі, Менскам і Навагародкам). Пасля заключэння *Берасцейскай уніі 1596* цэрквы В. сталі уніяцкімі, праваслаўныя заснавалі Троіцкі манастыр. У 1599 у В. адбыўся супольны з'езд праваслаўных і пратэстантаў, дзе абмяркоўвалася, як супрацьдзейнічаць наступу каталіцтва. Горад значна пацярпеў ад пажараў 1610, 1615, 1630 і 1645. У сярэдзіне 17 ст. ў горадзе, паводле розных ацэнак, ад 14 тыс. да 40 тыс. жыхароў, 23 касцёлы, 9 уніяцкіх і 1 правасл. царква. У 16—1-й пал. 17 ст. ўзведзены мураваныя касцёлы баніфратраў, бенедыкцінак, бернардзінак, езуітаў (св. Ігнація Лаёлы, св. Казіміра), кармелітаў абутых (2 касцёлы), кармелітаў босых (2 касцёлы) і інш. На вул. Жыдоўскай стаяла сінагога (пасля 1633 узведзена мураваная). Кальвінскі збор, закладзены М.Радзівілам Рудым у 1552 або 1553 у прадмесці Лукішкі, праз некалькі год перанесены ў горад на вул. Замкавую, пасля 1581 — бліжэй да Бернардзінскай брамы, а ў 1641 — за



гар. мур, на Пн ад Троцкай брамы (разбураны натоўпам, падбухтораным езуітамі, у 1682, пасля адбудаваны). Лютэранская кірха ўзведзена ў 1555 на вул. Нямецкай. Татарская мячэць з могілкамі знаходзілася на Лукішках. У сярэдзіне 17 ст. ў В. дзейнічалі 26 рамесных цэхаў. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* 8.8.1655 В. занята рас. войскамі (горад гарэў 17 дзён). 11.7.1660 войскі ВКЛ на чале з М.К.Пацам вызвалілі сталіцу, аднак рас. гарнізон, што сядзеў у Ніжнім і Верхнім замках, капітуляваў толькі 3.12.1661. За гвалт над мірнымі жыхарамі і рабункі начальнік гарнізона кн. Д.Я.Мышэцкі прысуджаны да смяротнага пакарання як ваенны злачынец. У 1663 у горадзе каля 5 тыс. жыхароў.

У час *Паўночнай вайны 1700—21* у 1702, 1706 і 1708 горад заняты шведскімі, а ў 1705, 1706 і 1708 — рас. войскамі. В. моцна пацярпела ад голаду і чумы ў 1709—11. У 1716 у В. створана *Віленская канфедэрацыя* супраць абсалютысцкіх планаў Аўгуста II. Войны і разруха сярэдзіны 17—пачатку 18 ст. прывялі да заняпаду гар. рамяства і гандлю, аслаблення гар. самакіравання і ўзмацнення прыватнаўладальніцкіх юрыдык. У 2-й пал. 17—18 ст. ўзведзены мураваныя касцёлы аўгусцінцаў, візітак, дамініканцаў, езуітаў, канонікаў латэранскіх, канонікаў рэгулярных, кармелітаў босых, місіянераў, трынітарыяў і інш. Горад значна пацярпеў ад пажараў 1706, 1723, 1737, 1748, 1749 і 1760. 30.1.1734 каля В. адбылася бітва паміж рас. войскамі і прыхільнікамі караля Станіслава Ляшчынскага на чале з А.Пацеем, якія былі разбіты. З ажыўленнем у сярэдзіне 18 ст. гаспадарчага і паліт. жыцця ў В. заснавана *Віленская піярская друкарня*, пачалі выходзіць газеты *«Кур'ер Літэўскі»* (1760) і *«Газэты Віленьске»* (1764), пасля скасавання езуіцкага ордэна ў 1773 заснавана *Адукацыйная камісія*, якая рэарганізавала сістэму адукацыі. З 1785 дзейнічаў гар. тэатр В.*Багуслаўскага*.

25.6.1792 у В. абвешчана Генеральная канфедэрацыя ВКЛ у падтрымку *Таргавіцкай канфедэрацыі*. У 1794 горад стаў адным з гал. цэнтраў *паўстання 1794*. У ноч на 23.4.1794 паўстанцы на чале з Я.*Ясінскім* узялі ўладу ў горадзе ў свае рукі. Рас. войскі ў В. былі абяззброены, а афіцэры з ген.-маёрам М.Дз.Арсеньевым арыштаваны. Была створана *Найвышэйшая Літоўская рада* — рэвалюцыйны ўрад ВКЛ, пачала выходзіць *«Газэта народова віленьска»*. 19—20.7.1794 В. беспаспяхова штурмавалі войскі ген.-маёра Б.Ф.Кнорынга. 11.8.1794 В. ўзята рас. войскамі, пасля чаго паўстанне ў ВКЛ было задушана канчаткова. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) горад у складзе Рас. імперыі, цэнтр Літоўска-Віленскай губ. У 1796 было 17,5 тыс. жыхароў.

*Літ.*: Baliński M. Historya miasta Wilna. T. 1—2. Wilno, 1836—37; Kraszewski J.I. Wilno od początków jego do roku 1750. T. 1—4. Wilno, 1840—42; Васильевский В.Г. Очерк истории города Вильны // Памятники русской старины в западных губерниях империи. Вып. 5—6. СПб., 1872—74; Крачковский Ю. Старая Вильна до конца XVII столетия. Вильна, 1893; Добрянский Ф. Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904; Виноградов А. Православные святыни г. Вильны. Вильна, 1906; Яго ж. Путеводитель по городу Вильне и его окрестностям. 2 изд. Вильна, 1908; Kowalenko W. Geneza udziału stołecznego miasta Wilna w Sejmach Rzeczypospolitej // Ateneum Wileńskie. 1925—26. R. 3. Z. 10—11; 1927. R. 4. Z. 12; Дружчыц В. Места Вільня ў першай палове XVI сталецьця // 400-лецьце беларускага друку, 1525—1925. Мн., 1926; Łowmiańska M. Wilno przed najazdem moskiewskim 1655 roku. Wilno, 1929; Яе ж. Udział communitatis mercatoriae w samorządzie wileńskim // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 2003. T. 9; Голубович В., Голубович Е. Кривой город — Вильно // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры. М., 1945. Вып 11; Янкявичене А.С. Некоторые сооружения Вильнюса XVI в. // Архитектурное наследство. М., 1964. Вып. 17; Vilniaus miesto istorija nuo seniausių laikų iki Spalio revoliucijos. Vilnius, 1968; Kosman M. Konflikty wyznaniowe w Wilnie (schyłek XVI—XVII w.) // Kwartalnik historyczny. 1972. Z. 1; Яго ж. Cmentarze dawnego Wilna. Toruń, 1994; Vilniui 650 metų. Vilnius, 1976; Папшис А. Вильнюс. Вильнюс, 1977; Топоров В.Н. *Vilnius, Wilno, Вильна*: город и миф // Балто-славянские этноязыковые контакты. М., 1980; Ochmański J. Krzywy gród wileński: Próba lokalizacji // Ochmański J. Dawna Litwa. Olsztyn, 1986; Кяупа З. Гостинный двор в Вильнюсе // Наш радавод. Гродно, 1991. Кн. 3, ч. 3; Франциск Скорина и Вильнюс. Вильнюс, 1991; Drėma V. Dingęs Vilnius. Lost Vilnius. Исчезнувший Вильнюс. Vilnius, 1991; Kaczorowski B. Zabytki starego Wilna. Warszawa, 1991; Зайкоўскі Э. Беларусы ў старажытнай Вільні // Спадчына. 1993. № 1; Daugudis V. Iš Vilniaus miesto praeities. Vilnius, 1993; Rachuba A. Wilno pod okupacją moskiewską w latach 1655—1661 // Lithuania. 1994. № 2(11)—3(12); Adamus J. O herbie miasta Wilna. Łódź, 1996; Małachowicz E. Wilno: Dzieje. Architektura. Cmentarze. Wrocław, 1996; Луцкевіч Л. Вандроўкі па Вільні. Вільня, 1998; Maroszek J. Ulice Wilna w XIV—XVIII wieku // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1999. № 1—2; Čaplinskas A.R. Vilniaus gatvės: Istorija, vardynas, žemėlapiai. Vilnius, 2000; Katalynas K., Vaitkevičius G. Rozwój Wilna w XIV wieku w świetle badań archeologicznych // Kwartalnik historii kultury materialnej. 2002. № 1; Ragauskas A. Vilniaus miesto valdantysis elitas XVII a. antrojoje pusėje (1662—1702 m.). Vilnius, 2002.

***Валерый Пазднякоў.***



**Вільня**. Панарама горада.

**віна пенежная**, грашовы штраф у ВКЛ, пеня на карысць вял. князя за забойства або цяжкае калецтва вольнага чалавека. Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588* В.п. спаганялася даволі часта і па сутнасці была адным з гал. відаў пакарання. Беспадстаўнае забойства каралася смерцю (віна крывавая), нават калі злачынства ўчыніў шляхціц, дадаткова накладаўся штраф. Статут вызначаў суму грошай, якую павінен быў унесці ў скарб вінаваты.



Памеры залежалі ад віду, характару і інш. акалічнасцей злачынства, а таксама ад велічыні кампенсацыі, якую выплачваў правапарушальнік пацярпеламу ці яго нашчадкам. Улічвалася таксама сац. паходжанне і становішча пацярпелага ці яго правапераемнікаў.

*Таісія Доўнар.*

**Вінніца** (укр. Вінниця, цяпер горад, цэнтр Вінніцкай вобл., Украіна), горад у Брацлаўскім ваяв., на р. Паўд. Буг. Упершыню ўпамінаецца пад 1363 у сувязі з заснаваннем драўлянага замка (пл. 3 тыс. км², 5 вежаў, уязная брама, царква). У 1510—12 замак пабудаваны нанава, у 1552 адбыўся яго рамонт. У 1558 на востраве «на павароце Паўд. Буга» ўзвялі новы замак. У 1559 В. перанесена бліжэй да замка. На працягу 1400—1569 горад падвергся 30 вял. нападам з боку татараў і туркаў. У 1552 у В. 429 дамоў, 42 карчмы, 2 млыны; праз горад праходзіў гандл. шлях на Чарнаморскае ўзбярэжжа. З 1569 В. — цэнтр павета *Брацлаўскага ваяводства*, у складзе Польшчы. У 1598 адм. цэнтр ваяводства перанесены ў В. Пасля 1569 заснавана вінніцкае брацтва Кузьмы і Дзям'яна пры Вазнясенскім манастыры, працавала школа. У канцы 16 ст. буйны гандл. і рамесны цэнтр Брацлаўшчыны. У 1580, 1593 і 1634 горад атрымліваў прывілеі на бяспошлінны гандаль у ВКЛ і Польшчы. У пач. 17 ст. ў В. каля 4 тыс. жыхароў. У 1604 у В. 702 дамы, у 1629 — 787. У 1610—17 пабудаваны езуіцкі кляштар (у 1642 пачаў працаваць калегіум). У 1624 заснаваны дамініканскі кляштар. У 1635 Уладзіслаў IV дазволіў будаўніцтва жаночага правасл. манастыра (у пач. 18 ст. пераўтвораны ва уніяцкі). 30.5.1640 В. атрымала магдэбургскае права і герб: 2 шаблі і 2 вудачкі. У 1648 занята казацкімі атрадамі М.Крываноса. У 1653—67 В. — цэнтр Вінніцкага палка (адм.-тэр. адзінка ў 1640—60-х г. на Правабярэжнай Украіне). У 1672—99 акупіравана турэцкімі войскамі. У 1734 і 1764 В. займалі гайдамакі. У 1746 пабудавана царква св. Мікалая ў заходнеўкр. стылі. У 2-й пал. 18 ст. працавала мануфактура. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Валерый Грынявецкі.*

**Вінніцкі** Юрый (Георгій, свецкае імя Габрыэль; 1660—23.9.1713), уніяцкі царкоўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З укр. шляхецкага роду герба «Сас». Служыў у войску, займаў адм. пасады, пасол на Варшаўскі вальны сойм 1690 ад Рускага ваяв. У 1700 прыняў манаства. У 1700—13 епіскап перамышльскі. З 1708 адміністратар (в.а. кіраўніка) Кіеўскай мітраполіі, Уладзіміра-Берасцейскай і Львоўскай епархій. Ад кіравання мітраполіяй адхілены каралём Станіславам Ляшчынскім, але пасля вяртання на трон караля Аўгуста II у 1710—13 мітрапаліт кіеўскі. Актыўна пашыраў унію на зах.-ўкр. землях, нават шляхам закрыцця правасл. цэркваў; адначасова беспаспяхова імкнуўся прадухіліць пераход шляхты ў рымска-каталіцкі абрад.

*Літ.*: Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907.

*Сяргей Казуля.*

**Вірбаліс** (Virbalis), мястэчка ў Літоўскай Рэспубліцы, у Вілкавішкскім р-не Марыямпальскага пав., гл. *Вярбілава*.

**Віславух** Севярын (19.3.1900, в. Пярковічы Кобрынскага пав.—27.2.1968), гісторык, грамадскі дзеяч. Д-р габілітаваны (1938), праф. звычайны (1957). Скончыў Віленскі ун-т (1927) і выкладаў у ім. У 1945—46 заг. кафедры гісторыі дзярж. ладу Польшчы ў Лодзінскім ун-це, з 1946 — кафедры гісторыі дзяржавы і права Польшчы ў Вроцлаўскім ун-це, у 1947—55 яго прарэктар, у 1956—58 дэкан факультэта права і адміністрацыі. У даваенны перыяд вывучаў гісторыю ВКЛ, яго адм.-тэр. падзел да сярэдзіны 16 ст. (Кобрынскі пав., маёнткі Ласосна, Шарашова), шляхі зносін ВКЛ. Даследаваў сац. структуру, землеўладанне, рэліг. адносіны, працэсы русіфікацыі і паланізацыі ў Зах. Беларусі, дзейнасць КПЗБ. Крытыкаваў урадавую палітыку асіміляцыі, выступаў у друку ў абарону бел. культуры, выкладаў гісторыю ў бел. школах. Адзін з заснавальнікаў НДІ Усх. Еўропы ў Вільні (1930), узначальваў аддзел меншасцей, выкладаў у яго Вышэйшай школе. Ідэйна належаў да т.зв. «віленскіх дэмакратаў» на чале з В.Абрамовічам, супрацоўнічаў у газ. «Kurier Wileński» («Віленскі веснік»). Выбіраўся ў гар. раду Вільні. Пасля вайны даследаваў сац. адносіны ў Сілезіі ў 19—20 ст.

*Тв.*: Rozwój granic i terytorjum powiatu Kobryńskiego do połowy XVI wieku // Ateneum Wileńskie. 1929. Z. 1—4; Z dziejów Łosośny i jej posiadaczy XV—XVI w. // Там жа. 1930. Z. 1—2; Dobra Szereszewskie: Ze studjów zad podziałem terytorjalnym W. Ks. Litewskiego przed reformą 1565—1566 r. // Там жа. 1933. R. 8; Dawne drogi Polesia // Там жа. 1937. R. 12; Białorusini na Ziemi Wileńskiej // Wilno i Ziemia Wileńska. Wilno, 1930. T. 1; Ziemia Oszmiańska na rubieży dwu kultur // Pamiętnik Zjazdu Gospodarczego w Oszmianie. Wilno, 1932; Posługi komunikacyjne w miastach W. Ks. Litewskiego na prawie magdeburskim do połowy XVI w. Wilno, 1936; Uwagi o przyczynach rozwoju miasta Mohylewa w XVI—XVII w. // Wiadomości Studium historii prawa litewskiego USB. Wilno, 1938. T. 1.

*Літ.*: Orzechowski K. Seweryn Wysłouch i jego prace z dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego i Śląska // Czasopismo prawno-historyczne. 1998. Z. 1.

*Валерый Пазднякоў.*

**Вісліцкі** Ян (1480—1520-я г.), паэт-лаціністВКЛ і Польшчы. Паходзіў з незаможнай сям'і з Беларусі або Польшчы. Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве, дзе вучыўся пад кіраўніцтвам магістра паэта Паўла Русіна з Кросна (Украіна). Відаць, у 1506 атрымаў ступень бакалаўра вольных мастацтваў, у 1510—12 працаваў у Ягелонскім ун-це ў якасці магістра (у рэктарскіх актах пазначаны як русін). Выступаў у пашыраных на той час жанрах — ода («Ода да караля Жыгімонта»), эпіграма, элегія, пасланне. Еўрапейскую вядомасць В. прынесла гіст. паэма на лац. мове «Пруская вайна» (Кракаў, 1516). У 1-й частцы твора паэт сцісла выклаў стараж. гісторыю Польшчы, напісаў пра дзейнасць легендарных Леха, Кракуса і Ванды. 2-ю частку прысвяціў *Грунвальдскай бітве 1410*, якую падаў у панегірычна-дыдактычным плане з пазіцый дзярж. патрыятызму ў традыцыях еўрапейскай героікаэпічнай паэзіі. Адзін з першых паэтаўгуманістаў усвядоміў эпахальнае значэнне перамогі над Тэўтонскім ордэнам для гіст. лёсу славян і прыбалтыйскіх народаў, уславіў гераічнае мінулае, ратную мужнасць воінаў, сцвердзіў ідэю гіст. еднасці і неабходнасці ваенна-паліт. саюзу славянскіх народаў перад іншаземнай пагрозай, падаў вобразы Ягайлы і Вітаўта. Асн. крыніцай для апісання бітвы паслужылі гіст. паданні і польскія хронікі. У паэме, насычанай вобразамі антычнай міфалогіі (напр., сцэна выбрання багамі на Алімпе жонкі для Ягайлы — Соф'і Гальшанскай), згадваюцца Белая Русь, *Клецкая бітва 1506* і *Аршанская бітва 1514*, «славутыя сваёю мужнасцю на вайне» русіны. Паэма стаіць каля вытокаў жанру гіст. эпапеі ў польск., бел. і літоўскай л-рах, а яе аўтар — пачынальнік

літаратурнай традыцыі, якая атрымала далейшае развіццё ў творчасці М.Гусоўскага, М.Стрыйкоўскага, А.Міцкевіча. Найб. поўнае перавыданне твораў В. з навук. каментарыямі ажыццявіў у 1933 польскі даследчык Я.Смярэка. На Беларусі творчасць В. ўпершыню пачаў даследаваць Я.Парэцкі, які зрабіў таксама і пераклад часткі паэмы на рус. мову (апубл. ў 1973).

*Тв.*: Bellum Prutenum. Leopoli, 1933 (Zbiór pisarzy polsko-łacińskich; 3).

*Літ.*: Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Мн., 1979; Парэцкі Я.І. Ян Вісліцкі. Мн., 1991.

***Віктар Дарашкевіч, Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Віснер** (Wisner) Генрык (н. 25.8.1936, Варшава), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1972), праф. звычайны (1994). Скончыў Варшаўскі ун-т (1962). У 1961—68 працаваў у Цэнтр. вайсковай б-цы, у 1968—72 — у Выдавецтве нац. абароны, пасля ў Ін-це сац. краін, з 1980 у Ін-це гісторыі Польскай АН. Даследуе гісторыю ВКЛ, у т.л. ваенную гісторыю, вайсковую справу, канфесіянальныя адносіны, адносіны ВКЛ з Польшчай.

*Тв.*: Wojna nie wojna. Warszawa, 1978; Najjaśniejsza Rzeczpospolita: Szkice z dziejów Polski szlacheckiej XVI—XVII wieku. Warszawa, 1978; Historia dyplomacji polskiej. T. 2. Warszawa, 1982 (у сааўт.); Rozróżnieni w wierze. Warszawa, 1982; Kircholm, 1605. Warszawa, 1987; Unia: Sceny z przeszłości Polski i Litwy. Warszawa, 1988; Litwa: Dzieje państwa i narodu. Warszawa, 1989; Rokosz Zebrzydowskiego. Kraków, 1989; Litwa i Litwini: Szkice z dziejów państwa i narodu. Olsztyn, 1991; Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės valstybingumo pavojai. Vilnius, 1991; Zygmunt III Waza. Wrocław etc., 1991; Litwa i Litwini: Z przeszłości państwa i narodu. Kaunas, 1993; Król i car: Rzeczpospolita i Moskwa w XVI i XVII wieku. Warszawa, 1995; Lisowczycy. Warszawa, 1995;Władysław IV Waza. Wrocław etc., 1995; Janusz Radziwiłł (1612—1655). Warszawa, 2000; Rzeczpospolita Wazów. Warszawa, 2002.

**Вістыцкі кляштар цыстэрцыянцаў.** Засн. ў 1678 падкаморым берасцейскім Яўстафіем Тышкевічам пры існуючым парафіяльным касцёле св. Сафіі ў в. Вістычы Берасцейскага павета. Мураваны комплекс узведзены пасля пажару 1748, які знішчыў папярэднія драўляныя будынкі. Касцёл — 3-нефавая базіліка без цэнтральнага нефа ў алтарнай частцы. Нефы вял. пралётў перакрыты крыжастымі скляпеннямі са спаранымі падпружнымі аркамі. Вял. аб'ём фасада нартэкса выступае за межы базілікі, па гарызанталі аддзелены магутным антаблементам на ўзроўні карнізаў бакавых нефаў, завершаны масіўным атыкавым франтонам з трохвугольным тымпанам і валютамі па баках. Па вертыкалі фасад падзелены на 5 частак, што не адпавядае 3-нефавай тэктонікі будынка. Цэнтр. частку вылучаюць падвойныя калоны дарычнага ордэра ў ніжнім ярусе і іанічнага на франтоне. Вось сіметрыі вылучана ўваходным парталам і акном над ім, заглыбленымі ў вялізнай арачнай нішы. Архітэктурным формам нададзена глыбінна-прасторавая структура, уласцівая позняму барока. З паўд. боку да касцёла прылягаў П-падобны 1-павярховы мураваны будынак кляштара. Кляштар скасаваны ў 1832, будынкі зруйнаваны, акрамя касцёла, які ў 1866 перароблены ў правасл. Крыжаўзвіжанскую царкву.

***Тамара Габрусь.***

**Віт** (Vitus, Veit; ?—1269), дамініканец, першы (разам з *Хрысціянам*) дакументальна засведчаны легітымны біскуп на бел. землях. Паходзіў, відаць, з земляў, дзе быў пашыраны культ пакутніка св. Віта (Саксонія і Вестфалія, пазней — Чэхія і Польшча). Вучань св. Яцка Адрованжа — заснавальніка ордэна дамініканцаў у Польшчы. Магчыма, што да з'яўлення на бел. землях удзельнічаў у місіянерскай працы ў Прусії [з 1240 ёй кіраваў дамініканскі правінцыял Гайдэнрык, пазней прызначаны першым Кульмскім (Хэлмінскім) біскупам]. У 1251 біскуп Гайдэнрык атрымаў даручэнне ад папы Інакенція IV знайсці адпаведную асобу і пасвяціць у біскупы для караля Міндоўга і яго дзяржавы. Не выключана, што прыкладна ў гэты час В. ужо працаваў на бел. землях у складзе ці на чале місіі. У 1253 гнезненскі арцыбіскуп Пэлка пасвяціў у в. Казлове каля Сахачава на Мазовіі брата В. на біскупа Літовіі (in Littoviam). Як вынікае з некат. гіст. крыніц, гэта пасвячэнне адбылося па ініцыятыве і, магчыма, з удзелам біскупа Гайдэнрыка, які меў на гэта адпаведныя паўнамоўтвы ад папы. У крыніцах біскуп В. згадваецца як «episcopus Lubusensis (Lubecensis, Lubuzensis, Lubozanus)» («біскуп Любчанскі або Любецкі»), а таксама як «episcopus Litovie (Lithoviensis, Littoviensis, Lithwaniensis, Lithomiriensis, Luthomiriensis)», («біскуп Літовіі або Літоўскі»). Гэта дало падставу даследчыкам лакалізаваць 1-ю рэзідэнцыю біскупа ў Любчы на Навагародчыне, а змену тытула на іншы звязаць з пераносам сядзібы біскупа ў другі населены пункт або з узвышэннем статуса біскупства да дзярж. ўзроўню. Паводле некат. звестак, В. не дагадзіў Міндоўгу і не паладзіў з мясц. насельніцтвам, таму быў выгнаны з краю і нават паранены. У 1255 ён папрасіў у папы Аляксандра IV вызвалення ад сваёй пасады; звольнены з яе папскім лістом ад 1.3.1255 з захаваннем тытула (на яго месца прызначаны Хрысціян). Пазней выконваў абавязкі суфрагана Вроцлаўскай, потым Пазнанскай дыяцэзіі. Апошнія гады жыцця правёў у Кракаве, дзе быў спавядальнікам кн. Баляслава Сарамлівага. Пахаваны ў кракаўскім дамініканскім касцёле побач са сваім настаўнікам св. Яцкам Адравонжам. Пасля беатыфікацыі св. Яцка ў 1543 астанкі В. перапахаваны пад алтаром св. Пятра. Пасля кананізацыі св. Яцка ў 1594 кардынал і кракаўскі біскуп Ю.Радзівіл выставіў рэліквіі В. для публічнага ўшанавання. Яны змяшчаліся ў саркафагу св. Яцка пад яго алебастравай статуяй. У 20 ст. рэліквіі біскупа В. перанесены ў капліцу св. Крыжа, дзе яны захоўваюцца і цяпер у сценным алтары. Афіц. беатыфікацыі В. не было, тым не менш ён вельмі шанаваўся, а многія аўтары агіяграфічных твораў называлі яго «благаслаўлёным». Браты дамініканцы верылі ў яго святасць і звязвалі з ім шматлікія цуды. У дамініканскім кляштары ў Кракаве захоўваўся пергаментны рукапіс, напісаны В.: «De christianorum in Lithovia conditione deplorabili, ad sanctissimum et beatissimum patrem dominum Innocentium papam quartum, fratris Viti de Ordine Praedicatorum episcopi Litoviensis. epistola» («Пра гаротны стан хрысціян у Літовіі...»). Твор загінуў у час пажару 1850.

*Літ.*: Bzovius A. Propago d. Hyacinthi thaumaturgi Poloni, Venetiis, 1606; Skarbiec diplomatów... posługujacych do krytycznego wyjasnienia dziejów Litwy, Rusi litewskiej i osciennych im krajów / Zebr. i w tresci opisał I.Danilowicz. T. 1. Wilno, 1860; Barącz S. Rys dziejów Zakonu Kaznodziejskiego w Polsce. T. 2. Lwów, 1861; De vita et miraculis s. Iacchonis // Monumenta Poloniae Historica. Pomniki Dziejowe Polski. T. 4. Lwów, 1884; Abraham W. Powstanie organizacyi kosciola lacinskiego na Rusi. T.I. Lwow, 1904; Kielar P. OP. Wit // Hagiografia Polska. Słownik bio-bibliograficzny. T. 2. Poznań; Warszawa; Lublin, 1972; Dekań-



**Віцебскі Маркаў Троіцкі манастыр**. Малюнак Дз.Струкава. 2-я палова 19 ст.

шчыну. У 18 ст. меў шэраг вёсак і юрыдыку ў Віцебску. У 1751 зроблена няўдалая спроба зрабіць манастыр уніяцкім. Традыцыйна быў у падпарадкаванні Кіеўскай мітраполіі. У 1733 прылічаны да Пскоўскай епархіі, у 1795 — да Магілёўскай, у 1833 — да Полацкай. З 1798 меў ранг архімандрыі, да яго быў прыпісаны Невельскі заштатны манастыр. У 1842 залічаны да манастыроў 1-га класа. Пасля закрыцця манастыра будынкі (акрамя Пакроўскай царквы, цяпер Казанская) знесены. Казанская царква — помнік архітэктуры барока з рысамі ранняга класіцызму. У 1847 да яе прыбудавана Мітрафанаўская царква. Першапачаткова храм быў крыжова-купальны. Да асн. кубападобнага аб'ёму з 3 паўкруглымі апсідамі далучаны развіты прытвор. Сцены прарэзаны высокімі арачнымі вокнамі і раскрапаваны пілястрамі. Бакавыя фасады царквы і прытвора завершаны трохвугольнымі франтонамі з арачнымі праёмамі. У цэнтр. апсідзе размешчана ляпная дэкаратыўная рама-бленда.

*Літ.*: Сергий. Витебский Марков Свято-Троицкий мужской монастырь. Витебск, 1887; Довгялло Д. Марковские гайдамаки: Ист. очерк из истории Витебского Маркового монастыря XVII в. Витебск, 1896; Свято-Троицкий Марков монастырь в городе Витебске. СПб., 1911.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Віцебскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Утвораны ў канцы 14 ст. пасля скасавання *Віцебскага княства*. Тэрыторыя В.п. складалася з 2 асн. частак: стараж. баярскіх вотчын і княжацкіх двароў, якія размяшчаліся гал. ч. на З, У і Пд ад Віцебска на адлегласці каля 20—30 км, і больш аддаленых валасцей [Азярышча, Бруса, Дрэчылукі, Мікуліна, Усвят (Усвяты) і інш.]. Апошнія былі заселены сялянамі-*даннікамі* і даваліся на 1—2 гады ў кіраванне па чарзе віцебскім баярам. Княжацкімі дварамі, відаць, здаўна былі Выдрэя, Лемніца (Ілемніца), Лужасна, Любашкаў, якія ў 16 ст. і пазней з'яўляліся велікакняжацкай уласнасцю. Шматлікія баярскія вотчыны (у 15—16 ст. сярод іх упамінаюцца Бялынавічы, Вымна, Гламічы, Караміды, Пагосцішча, Старое Сяло, Тухачова, Фальковічы, Хоцімля і інш.) належалі прадстаўнікам 20—30 родаў мясц. паходжання (Аліфяровічам, Буевічам, Герасімовічам, Гуркам-Рамейкам, Дашковічам, Мастытычам, Шапкам і інш.) ці раздаваліся вял. князямі служылым князям (напр., маёнтак Тулава трапіў да кн. Жылінскіх, сёлы на мяжы з Полацкім пав. — да кн. Глінскіх). На працягу 15 ст. шэраг ускраінных валасцей В.п. таксама перайшлі ва ўласнасць князёў і паноў і т. ч. выйшлі з-пад улады віцебскага намесніка; воласці Мікулінская трапіла да кн. Асавіцкіх, Дрэчылукі — да кн. Друцкіх-Бабічаў, Астроўна — да кн. Андрэя Уладзіміравіча, потым да Сапегаў, Обаль — да кн. Друцкіх-Прыхабскіх, Храпавіцкая — да паноў Храпавіцкіх. У 2-й пал. 15 ст. вял. воласці Азярышча і Усвяты перайшлі ў непасрэднае падпарадкаванне вял. князя. Астатняя частка В.п. (баярскія вотчыны і воласці) належала да юрысдыкцыі намесніка. У розны час гэту пасаду займалі Румбольд Валімунтавіч (1422), кн. Васіль Друцкі-Красны (1431), Нац Гінвілавіч (1452), Іван Гойцавіч (1452—54), М.Неміровіч (1466—69), І.Хадкевіч (каля 1476), І.Іллініч (1482), кн. І.Ю.Заслаўскі (1492), кн. М.І.Заслаўскі (1494—95), С.Глябовіч (1496—1501), Ю.Глябовіч (1503—08). У 1508 утворана *Віцебскае ваяводства*, куды ўвайшоў і В.п. Функцыі віцебскага намесніка перайшлі да ваяводы, якога замяшчаў падваявода. У 1514 паўн.-ўсх. частка В.п. (воласці Веліж і Жыжэц) адышла да Маскоўскай дзяржавы (Веліж вернуты ў 1582 пасля Лівонскай вайны 1558—83). Пасля адм. рэформы ВКЛ 1565—66 В.п., як і інш. паветы ВКЛ, атрымаў удакладненыя межы. У яго зноў увайшлі ўсе княжацкія і панскія ўладанні, дзярж. воласці Азярышча і Усвят (Усвяты), а таксама маёнтак *Сянно*, які ў пач. 16 ст. вылучыўся з Аболецкага пав. Віцебскага ваяв. Былі ўведзены новыя службовыя пасады: кашталян, суддзя земскі з падсудкам і пісарам, суддзя гродскі з пісарам, харунжы, падкаморы і інш. Уся шляхта павета была ўраўнавана ў правах і атрымала самакіраванне — павятовы соймік. У час Лівонскай вайны на тэр. маёнтка Дрэчылукі ў 1563 пабудаваны дзярж. *Суражскі замак*, які разам са старымі Азярышчанскім і Усвяцкім замкамі меў важнае абарончае значэнне. На тэр. В.п. здаўна існаваў праваслаўны Маркаў (Маркаўскі) манастыр (на правым беразе Зах. Дзвіны ніжэй Віцебска). У 16—18 ст. найбуйнейшымі землеўладальнікамі павета з'яўляліся паны Сапегі (Астроўна, Тухачоў, пазней Дрэчылукі), кн. Сангушкі (Госьмір, Обаль), Агінскія (Мікуліна, Лёзна, пазней Веляшковічы і Марцыянаў). У В.п. былі заснаваны дзярж. і прыватныя мястэчкі Азярышча, Веліж, *Гарадок*, Калышкі, *Лёзна*, Мікуліна, Соржыца (Сорыца), Сянно, Усвяты, Янавічы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) В.п. у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Віцебскі Успенскі манастыр**. Успенскі (Прачысценскі) манастыр у Віцебску на высокім левым беразе Дзвіны (пасад Узгор'е, з 17 ст. Узгорскі замак) вядомы



**Віцебскі Успенскі манастыр**. Рэканструкцыя І.Роцькі і А.Міхайлюкова на 1803.




Аўтар карты М.Ф. Спірыдонаў

з 1406, спачатку быў мужчынскі, з 16 ст. жаночы. З 16 ст. царква манастыра мела статус сабора, была 2-й (пасля Полацкага Сафійскага сабора) кафедрай полацкіх архіепіскапаў. З пач. 17 ст. сабор уніяцкі. Пры ім знаходзіўся двор (рэзідэнцыя) полацкіх архіепіскапаў, дзе ў час *Віцебскага паўстання 1623* забіты І.*Кунцэвіч*. У 1629 сабор згарэў, у 1636 адбудаваны. Пасля 1672 на сродкі віцебскага земскага пісара А.Ф.Кісяля пабудаваны новы сабор, пры ім у 1682 заснаваны базыльянскі мужчынскі манастыр. Усе пабудовы згарэлі ў 1708, пасля адбудаваны. Мураваныя сабор і манастыр пачаў узводзіць у 1743 арх. Ю.*Фантана* ў стылі барока на сродкі мяшчан Віцебска і шляхты. За ўзор быў узяты касцёл Сан-Карла-аль-Корса ў Рыме (1612—80-я г.). З-за недахопу сродкаў будаўніцтва зацягнулася і скончана толькі ў 1780-х г. (у 1785 сабор



асвячоны ў гонар Успення Багародзіцы і ў імя св. пакутніка Іасафата Кунцэвіча, але будаўнічыя работы працягваліся). Быў адным з самых вялікіх у Рэчы Паспалітай (даўжыня 66 м, шырыня 33 м, вышыня ад падлогі да столі гал. нефа 22,5 м). Сабор — 3-нефавая крыжовая ў плане базіліка з 2 вежамі на гал. фасадзе. Па баках меліся па 3 капліцы з выхадамі да бакавых нефаў, накрытых з імі агульным дахам. Паўкруглая апсіда была абкружана прэсбітэрыем, канцы якога выходзілі ў крылы трансепта і далей у бакавыя нефы. Да прэсбітэрыя з супрацьлеглых бакоў былі далучаны 2-павярховыя сакрыстыя і скарбец. Гал. фасад адпаведна нефам і радам капліц меў 5-часткавае чляненне, падкрэсленае парнымі калонамі і пілястрамі. Сярэдняя выгнутая ўперад 3-ярусная частка завяршалася хвалістым перарывістым гзымсам. Вежы па восях капліц былі 4-ярусныя, завершаныя фігурнымі купалкамі. У дэкоры фасадаў выкарыстана ордэрная архітэктурная пластыка, філёнгавыя рамы, разнастайныя абрамленні праёмаў і інш. Інтэр'ер быў упрыгожаны лепкай, мураваным іканастасам. Цэнтр. неф і трансепт былі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Гал. мураваны манастырскі корпус размяшчаўся на Пн ад сабора, 3-павярховы, Т-падобны ў плане, гал. фасадам арыентаваны на Дзвіну. Мае калідорную сістэму планіроўкі: уздоўж аднабаковага калідора, перакрытага цыліндрычнымі скляпеннямі, першапачаткова размяшчаліся келлі і розныя службовыя памяшканні, якія 20 вокнамі выходзілі на Дзвіну. Бакавыя фасады мелі па 3 акны на паверсе і завяршаліся фігурнымі шчытамі. З боку двара прыбудавана 2-павярховае крыло, дзе знаходзіліся трапезная, школа і бібліятэка. Гал. фасад на ўсю вышыню будынка аздоблены пілястрамі, паміж якімі размешчаны прамавугольныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі і падаконнымі нішамі; будынак завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Корпус мае калідорную сістэму планіроўкі з крыжовымі (у памяшканнях) і цыліндрычнымі (у калідоры) скляпеннямі. Гал. корпус галерэяй злучаўся з саборам. Перад ім быў разбіты вузкі сад, абгароджаны мурам. На манастырскім двары стаялі 1-павярховыя гасп. пабудовы. У 1799 сабор перададзены праваслаўным, у будынках манастыра размешчаны адміністрацыйныя ўстановы, з 1856 дзейнічала духоўная семінарыя. Сабор у час рамонтаў страціў барочныя дэталі і набыў рысы класіцызму, быў надбудаваны 8-гранны барабан са сферычным купалам з драўляным ліхтаром. У 1936 сабор узарваны, цяпер аднаўляецца.

*Літ.*: Хмяльніцкая Л.У. З гісторыі Віцебскага базыльянскага кляштара // Віцебскі сшытак. 1996. № 2; Boberski W. Późnobarokowa cerkiew katedralna w Witebsku i jej rzymski pierwowzór // Biuletyn historii sztuki. 2000. № 1—2; Сапунов А.П. Витебский Успенский собор в связи с событиями из религиозной жизни витеблян. [2 изд.]. Витебск, 2001.

***Валерый Паздняко́ў.***

**віцебскія замкі**, сістэма абарончых збудаванняў сярэдневяковага *Віцебска*. Складаліся з Верхняга, Ніжняга і Узгорскага замкаў. Верхні замак быў пабудаваны на стараж. дзядзінцы горада на левым беразе Зах.Дзвіны, у сутоку з р. Віцьба. У 12 ст. тэр. замка абнесена магутным земляным валам (шырыня ў аснове 36 м, вышыня каля 8 м), які меў запоўнены вязкай глінай унутраны каркас з 7 радоў хваёвых бярвёнаў, пакладзеных перпендыкулярна адно да аднаго. З боку Зах. Дзвіны вал быў укрыты тоўстым пластом гліны, наверсе стаялі драўляныя сцены і вежы, замененыя ў 14 ст. мураванымі (шырыня 3 м, вышыня каля 7 м). Сцены былі завершаны прамавугольнымі зубцамі і накрыты стрэшкай, пад якой на кансольных бэльках размяшчалася галерэя насценнага бою. Мураваныя 3—4-ярусныя вежы мелі ў аснове памеры ад 8,5 × 8,5 м да 10,5 × 10,5м. У 17 ст. ўмацаванні Верхняга замка складаліся з драўляных абарончых сцен, зробленых па тыпу гародняў з 2 ярусамі баёў; засталіся рэшткі мураваных сцен, дзе былі Вялікая праезная брама, 3 4-гранныя ў плане вежы (Веставая, Танкавая, Храпавіцкая), 2 8-вугольныя ў плане вежы-круглікі (Шарамецеў, Бабарыкін), раскат (спец. памост для адкрытага размяшчэння гармат) і брамка — выхад да р. Віцьба. 2- і 3-ярусныя вежы мелі байніцы. У розныя часы даўжыня лініі абароны складала ад 753 да 836 м. Ад Вял. праезнай брамы да брамкі вяла гал. замкавая вуліца, што падзяляла тэр. замка на 2 часткі (усх. і зах.) з свабоднай планіроўкай, падпарадкаванай рэльефу. Ва ўсх.частцы знаходзіліся драўляныя прыказ, двор ваяводы, Міхайлаўская царква, т.зв. дом Горскага, у зах. — турма, калодзеж.

Ніжні замак быў выцягнуты па восі З—У. Яго агіналі рэкі Зах.Дзвіны і Ручай. З Пн прымыкаў да сцен Верхняга замка. У 1-й пал. 14 ст. ўмацаваны земляным абарончым валам з унутранай драўлянай канструкцыяй, драўлянымі сценамі і вежамі. У 17 ст. меў 3 праезныя брамы, 8 вежаў (Сярэдняя, Старасельская, Швыкоўская, Дамініканская, Тарапецкая, Княжая, Напрудная, Падзвінская), 2 круглікі (Духаўскі, Мяшчанскі), Задунайскую брамку. Даўжыня лініі абароны 1256 м. Гал. планіровачная вось — Вялікая вул. (шырыня 4—5 м) — праходзіла праз усю тэр. замка ад Заручайскай праезнай брамы да Задунайскай брамкі, мела драўляны мост з круглых бярвёнаў. На тэр. Ніжняга замка знаходзілася Благавешчанская царква, Аляксееўскі манастыр, палац Агінскага, дом Шапкіна, 2 калодзежы.

Узгорскі замак быў блізкі да 4-вугольніка, з усх. і паўд. бакоў яго агінала р. Віцьба, з зах. — Зах.Дзвіна, паўн. бок не меў абарончых сцен (менавіта ў гэтым напрамку ішло далейшае развіццё горада). Умацаванні замка ўзніклі, відаць, у часы Кіеўскай Русі. У 17 ст. выконваў ролю ўмацаванага пасада (вядомы як Узгорскі горад або Астрог). Меў драўляныя сцены, 3 брамы (Падзвінская, Суражская, Кстоўская), 6 вежаў (Прачысценская, Рагавая, 2 Сярэднія, Навугольная, Узгорская), 2 раскаты (Прачысценскі, Мікольскі), Мяшчанскі круглік. Планіровачная структура развітая. Гал. вуліца — Вялікая Узгорская, звязала Узгорскі і Ніжні замакі. Другая вуліца пачыналася ад Суражскай брамы, трэцяя — ад Падзвінскай. На іх скрыжаванні (каля моста цераз Віцьбу) сфарміраваўся адм.-гандл. цэнтр з гасціным дваром і крамамі, якія ўтваралі гандлёвую плошчу. На тэр. замка былі Увядзенская, Праабражэнская, Васкрасенская цэрквы. Даўжыня лініі абароны 1111 м. Перад валамі і брамамі ўсіх замкаў былі дадатковыя ўмацаванні, 4 брамы з пад'ёмнымі мастамі. В.з. разбураны ў 18 ст.

*Літ.*: Чарняўская Т.І. Архітэктура Віцебска. Мн., 1980; Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Мн., 1987.

***Міхась Ткачоў, Тамара Чарняўская.***

**Віцень** (?—1316), вялікі князь літоўскі [1295—1316]. Звесткі пра паходжанне В. супярэчлівыя. Паводле «Хронікі зямлі Прускай» Пятра з Дусбурга, В. быў сынам кн. *Пукувера* (інакш Лютувера),



родапачынальніка *Гедзімінавічаў*. Братам В. быў *Гедзімін*. У 1291 Пукувер паслаў В. з вял. войскам у Польшчу ваяваць Куяўскую зямлю. У 1294 В. камандаваў літ. войскам, якое напала на Лянчыцкую зямлю ў Польшчы, у 1295 — на Малую Польшчу, у 1300 — на Добжынскую зямлю, у 1306 — на Каліш. Яшчэ адзін паход на Польшчу адбыўся ў 1307. Арганізоўваў адпор наступу нямецкіх рыцараў-крыжакоў на ВКЛ. Пад яго кіраўніцтвам адбыліся ваенныя паходы на тэр. Тэўтонскага ордэна. Скарыстаў супярэчнасці паміж лівонскімі рыцарамі і Рыжскім арцыбіскупствам і ў 1298 заключыў саюзны дагавор з Рыгай і рыжскім арцыбіскупам, што дало магчымасць адбіць крыжацкі наступ на Жамойць. Тады ж В. захапіў крыжацкі замак Каркхаўз. Саюз ВКЛ з Рыгай дзейнічаў да канца панавання В. У 1307 В. дапамог гараджанам Полацка выгнаць з горада крыжакоў, якія праніклі ў 1305 і пачалі там панаваць. Пры гэтым у Полацку былі перабіты амаль усе немцы, а пабудаваны імі касцёл разбураны. Для барацьбы з крыжакамі на правым беразе Нёмана В. пабудаваў некалькі замкаў, у якіх пастаянна знаходзіліся зменныя гарнізоны. На левым беразе Нёмана былі пабудаваны замкі крыжакоў. Тут пастаянна адбываліся ваен. сутычкі. Ва ўнутр. палітыцы В. намагаўся ўмацаваць паліт. адзінства ВКЛ. Сяліў на сваіх землях на Гарадзеншчыне прусаў, якія ўцякалі ад крыжакоў з заваяванай Прусіі. За гэта крыжакі рабілі жорсткія напады на Гарадзенскую зямлю. У 1294 В. задушыў паўстанне жамойцкіх князёў, якіх схіляў да саюзу Тэўтонскі ордэн. Паводле позняга Васкрасенскага летапісу, В. далучыў да сваёй дзяржавы тэрыторыю да Зах. Буга, Берасцейскую зямлю (1315). Пра абставіны смерці В. дакладных звестак не захавалася. Апошні раз упамінаецца ў крыніцах пад 1315, калі ў верасні гэтага года кіраваў аблогай крыжацкага замка Хрыстмемеля. Супярэчліва выглядаюць паведамленні хронік пра яго гібель у баі з крыжакамі ці смерці ад удару маланкі. Паводле Густынскага летапісу, В. прыняў дзярж. герб ВКЛ: «Витен нача княжити над Литвою, измысли себе герб и всему князству Литовскому печать: рыцер збройны на коне з мечем, еже ныне наричут Погоня».

*Літ.*: Chodynicki K. Geneza dynastii Giedymina // Kwartalnik historyczny. 1926. № 4; Zajączkowski S. Przyczynki do hipotezy o pochodzeniu dynastji Giedymina ze Żmudzi // Ateneum Wileńskie. 1927. Z. 13; Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. 2 выд. Rzeszów, 2000; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. 2 выд. Мн., 2001; Яго ж. Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. 2 выд. Мн., 2003.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**віціна**, старадаўняе драўлянае пласкадоннае рачное судна з палубай і парусамі. На ім перавозілі збожжа і інш. грузы. Вядома з 15 ст. Даўжыня В. 43—45 м, шырыня 4—11 м, грузападымальнасць 128—192 т. Будавалася і хадзіла на Нёмане, Шчары, Віліі. Пачала знікаць у 2-й пал. 19 ст., зрэдку выкарыстоўвалася на пач. 20 ст.

***Ніна Буракоўская.***

**віцэ-інстыгатар**, дзяржаўны ўрад (пасада) у ВКЛ. Вядома з 1615. Фармальна быў намеснікам *інстыгатара*, але выконваў такія ж функцыі, таму ў 1775 пасада В.-і. пераўтворана ў 2-ю пасаду інстыгатара.

***Валерый Пазднякоў.***

**віцэ-пісар**, непрысяжны ўрад (пасада), намеснік *пісара*. Пасада існавала ў цэнтр. канцылярыі ВКЛ, кансісторыях, канцылярыях асэсарскага, рэферэндарскага, гродскага, земскага і гар. судоў. Уводзіліся пры павелічэнні справаводства і дакументацыі пераважна ў 18 ст., а таксама пры неабходнасці замяшчэння пісара ў час яго адсутнасці (з прычыны хваробы, ад'езду ці адсутнасці кандыдата на ўрад пісара).

***Зміцер Яцкевіч.***

**віцэ-рэгент**, непрысяжны ўрад (пасада) у ВКЛ, намеснік *рэгента* — гал. справавода канцылярыі. Пасада існавала ў цэнтр. канцылярыі ВКЛ, кансісторыях, канцылярыях асэсарскага, рэферэндарскага, гродскага, земскага і гар. судоў. Уводзіліся пры павелічэнні справаводства і дакументацыі пераважна ў 18 ст., а таксама пры неабходнасці замяшчэння рэгента ў час яго адсутнасці (з прычыны хваробы, ад'езду ці адсутнасці кандыдата на ўрад рэгента). Як і рэгенты, выконвалі функцыі архівістаў. У Магілёве ў 1734—38 В.-р. быў Ю.Трубніцкі — аўтар адной з частак Магілёўскай хронікі.

***Зміцер Яцкевіч.***

**Вішнеўская металургічная мануфактура**. Дзейнічала з 1780 у мяст. Вішнева Ашмянскага пав. Засн. на беразе р. Бярэзіна І.І.Ю.*Храптовічам*. Працавала на мясц. балотнай рудзе , паліва (драўняны вугаль) нарыхтоўвалася ў навакольных лясах. Тут упершыню на Беларусі пабудавана доменная печ. Дзейнічалі таксама кузня, плавільня, склад. Частка выпрабленага чыгуну выкарыстоўвалася на адліванне рашотак, каласнікоў, крыжоў і інш. Астатні чыгун паступаў у плавільны цэх, дзе з яго рабілі жалеза. Ужо ў першыя гады працы прадпрыемства штотыднёва давала 600 пудоў жалеза, за год (мануфактура працавала 40 тыдняў) — 22—23 тыс. пудоў. Яно выкарыстоўвалася на выраб с.-г. прылад, прадметаў дамашняга ўжытку і інш. Частку жалеза куплялі мясц. рамеснікі. У час *паўстання 1794* выраблялася зброя для паўстанцаў. Пасля задушэння паўстання рас. войскі, якія занялі Вішнева, моцна разбурылі мануфактуру, але яна была хутка адноўлена. Пасля пераўтворана ў завод, які дзейнічаў да 1870.

***Мікалай Раманоўскі.***

**Вішнявецкая бітва 1512**, Лапушнаўская бітва. Адбылася 28 крас. каля г. Вішнявец на Валыні паміж войскамі ВКЛ і Польшчы з аднаго боку і крымскімі татарамі з другога. 20—24 тыс. татараў на чале з трыма царэвічамі вясной 1512 пустошылі Падолле, Валынь і Галіцыю, стаўшы кошам каля Буска. Кароль Жыгімонт I Стары паслаў супраць татараў сваі надворныя харугвы, аддзелы кароннага гетмана, ваяводы кракаўскага М.Камянецкага, выклікаў початы інш. паноў, з ВКЛ — войска найвышэйшага гетмана К.І.Астрожскага. Разам было сабрана каля 5 тыс. коннікаў. Пасля некалькіх баёў з асобнымі татарскімі загонамі аб'яднанае войска ВКЛ і Польшчы ўдарыла па татарскім лагеры каля в. Лапушна за 2 мілі на ПдУ ад Вішняўца. Правым крылом войска камандаваў Астрожскі, левым — Камянецкі. У бітве было забіта 5 тыс. татараў, у т.л. 3 царэвічы і зяць крымскага хана Менглі-Гірэя, вызвалена 16 тыс. палонных, захоплена 10 тыс. коней. У бітве вызначыліся князі А.С.Збаражскі, М.В.Вішнявецкі, А.Ф.Чартарыйскі, пан Ю.Радзівіл і інш.

*Літ.*: Herbst S. Najazd tatarski 1512 r.// Przegląd historyczny. 1948. R. 37.

***Валерый Пазднякоў.***

**Вішнявецкія** (Карыбут-Вішнявецкія), княжацкі род герба «Карыбут». Радавод вялі ад кн. *Карыбута* (Фёдара) Альгердавіча з вялікакняжацкай дынастыі ВКЛ, якога даследчыкі атаясамліваюць з кн. Фёдарам Несвіцкім (гл. ў арт. *Несвіцкія*). Унук Фёдара Несвіцкага Міхаіл Васілевіч Збаражскі валодаў замкам Вішнявец у Крамянецкім пав. на Валыні



Да арт. **Вішнявецкія**.
Я.А.Вішнявецкі.
Партрэт 1750-х г.



Да арт. **Вішнявецкія**.
М.С.Вішнявецкі.
Партрэт 1750-х г.

(адсюль прозвішча В.). Ад яго сыноў Івана і Аляксандра пайшлі старэйшая і малодшая лініі роду В. (у мужчынскім родзе згаслі ў 1744 і 1673). В. належалі вялізныя зямельныя абшары і маёнткі на Украіне і Беларусі, у т.л. з 1509 Брагінская вол. Найб. вядомыя са старэйшай лініі:

Іван Міхайлавіч (?—каля 1542), сын Міхаіла Васілевіча. Староста прапойскі, чачэрскі і варнянскі.

Дзмітрый Іванавіч (?—1563), сын Івана Міхайлавіча. Дзяржаўца ванячыцкі з 1547, староста чаркаскі з 1551. Адзін з кіраўнікоў барацьбы запарожскіх казакаў супраць крымскіх татар, туркаў і малдаўскіх гаспадароў, бараніў граніцы ВКЛ на Пд, для чаго на дняпроўскім востраве Мал. Хорціца пабудаваў крэпасць (каля 1554—55). Хадзіў на крымскіх татар і туркаў. Пад імем Байда стаў прататыпам героя нар. песень. У знак пратэсту супраць загаду вял. князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста спыніць напады на Крым і Турцыю ў 1557 перайшоў на службу да рас. цара Івана IV Грознага, які даў яму ў валоданне горад Бялёў і даручыў камандаваць атрадам на паўд. мяжы Рас. дзяржавы. Двойчы ўдзельнічаў у паходах рас. войска ў Крым. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* уцёк з Масквы (1563), заручыўшыся лістом вял. князя літоўскага з дазволам на зварот. У 1563 малдаўскія баяры, незадаволеныя сваім гаспадаром Стафанам IX, запрасілі Дзмітрыя Іванавіча на малдаўскі трон, але яго атрад быў разбіты ў бітве з войскамі Стафана IX. Дзмітрый Іванавіч трапіў у палон і пакараны смерцю ў Канстанцінопалі.

Канстанцін Іванавіч (?—1574), сын Івана Міхайлавіча. Староста житомірскі. На Люблінскім сойме 1569, прымаючы прысягу пры далучэнні Валыні да Польшчы, ад імя валынскіх магнатаў папярэдзіў Жыгімонта Аўгуста аб неабходнасці захаваць у ваяводстве правасл. веравызнанне і укр. мову ў справаводстве.

Андрэй Іванавіч (?—1585), сын Івана Міхайлавіча. Кашталян луцкі (валынскі) у 1568—72, ваявода брацлаўскі ў 1572—76 і валынскі з 1576.

Канстанцін Канстанцінавіч (1564—1641), сын Канстанціна Іванавіча. Ваявода белзскі ў 1636—38 і рускі з 1638, староста чаркаскі з 1623 і крамянецкі. У 1595 перайшоў у каталіцтва. Пазнаёміў Ілжэдзмітрыя І са сваім сваяком Юрыем Мнішкам. З атрадам добраахвотнікаў з шляхты і вайсковых людзей удзельнічаў у паходзе Лжэдзмітрыя І на Маскву (1604—05). Пасля гібелі апошняга вярнуўся на Украіну, але неўзабаве з новым атрадам удзельнічаў у аблозе Троіца-Сергіева манастыра, у 1617—18 — у паходзе каралевіча Уладзіслава на Маскву. Калі ў 1631 згас род князёў Збаражскіх, атрымаў іх зямельныя ўладанні на Украіне.

Януш Антоні (1678—18.1.1741), сын Крыштофа. Староста пінскі ў 1695—1701, падчашы ВКЛ у 1697—98, маршалак надворны ВКЛ у 1699—1702, віленскі кашталян ў 1702—03 і ваявода ў 1704—06, кракаўскі ваявода ў 1706—26 і кашталян з 1726. Удзельнічаў у барацьбе шляхты Літвы і Беларусі супраць засілля Сапегаў у ВКЛ.

Міхал Серваці (13.5.1680—16.9.1744), сын Крыштофа. Гетман польны ВКЛ у 1702—03 і 1707—09, гетман вялікі ВКЛ у 1703—07 і з 1735, віленскі кашталян у 1703—06 і ваявода ў 1706—07 і з 1735, канцлер вялікі ВКЛ у 1720—35; староста пінскі, ваўкавыскі, мерацкі, вількавішскі. Маршалак канфедэрацыі 1700. У 1707 заключыў пагадненне з каралём Станіславам Ляшчынскім. У 1709 арыштаваны і вывезены ў Расію, у 1710 вярнуўся ў Рэч Паспалітую і эмігрыраваў. На радзіму вярнуўся ў 1716. Пісьменнік і паэт. Апошні мужчына ў старэйшай лініі роду і ў родзе. Пасля яго смерці ўладанні В. перайшлі да Агінскіх і Замойскіх, потым да Плятэраў, Пшаздзецкіх, Бжастоўскіх і Вяльгорскіх.

Найб. вядомыя з малодшай лініі:

Аляксандр Міхайлавіч (?—1555), сын Міхаіла Васілевіча. Староста рэчыцкі.

Адам Аляксандравіч (?—1622), сын Аляксандра Аляксандравіча. Уладальнік маёнткаў на Беларусі і Украіне, актыўны прыхільнік правасл. царквы ў Рэчы Паспалітай. У 1601—03 у яго маёнтку ў Брагіне знаходзіўся Лжэдзмітрый І, які ўпершыню «прызнаўся» менавіта Адаму Аляксандравічу, што ён царэвіч Дзмітрый, сын Івана IV Грознага, цудам уратаваны ад смерці ва Угліччы. Апошні прызнаў Ілжэдзмітрыя І царэвічам, падтрымаў яго і пазнаёміў з Канстанцінам Канстанцінавічам В. і інш. магнатамі. Удзельнічаў у паходзе Лжэдзмітрыя І на Маскву. У маі 1606 трапіў у палон і высланы ў Кастраму. У 1607 вярнуўся на радзіму. Разам з правасл. магнатам кн. Р.К.Ружынскім далучыўся да атрада ў некалькі тысяч коннікаў, які



разам з Ілжэдзмітрыем II пайшоў на Маскву, аднак у хуткім часе вярнуўся.

Іерамія Міхаіл Міхайлавіч (1612—20.8.1651), сын Міхаіла Міхайлавіча. Буйны магнат на Украіне, ваявода рускі з 1646, староста гадзяцкі, канеўскі, перамышльскі. Першапачаткова праваслаўны, у час вучобы ў езуіцкай школе ў Львове перайшоў у каталіцтва (1631), стаў гарачым прыхільнікам яго распаўсюджання, але карыстаўся і польскай, і укр. мовамі. Яго ўладанні на Украіне складаліся з 56 гарадоў, мястэчак і вёсак (цэнтр г. Лубны) і займалі большую частку цяперашняй Палтаўскай вобл. Меў таксама маёнткі і замкі на Валыні і Палессі, 12-тысячнае войска, прымаў замежных паслоў. Удзельнічаў у *вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*. Узначальваў групоўку магнатаў, якая выступала супраць цэнтралізацыі ўлады ў Рэчы Паспалітай, патрабаваў ад караля рашучых дзеянняў па задушэнні *антыфеадальнай вайны 1648—51*, у выніку якой пацярпела большасць яго маёнткаў. На пачатку вызваленчай вайны на Украіне фактычна ўзначаліў процідзеянне паўстанцам-казакам і сялянам, вёў з імі жорсткую барацьбу.

Міхал (31.7.1640—10.11.1673), сын Іераміі Міхаіла. Кароль польскі і вял. князь літоўскі [1669—73], гл. *Міхал*. Апошні з малодшай лініі В.

*Літ.*: Длугопольский А. Вишневец и князья его // Вестник Западной России. 1868. Кн. 6—8; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 552—576; Голобуцкий В.А. Запорожское казачество. Киев, 1957.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Вішцінец** (літ. Вішціціс, Vištytis, цяпер мястэчка ў Вілкавішкскім р-не Марыямпальскага пав., Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Ковенскім пав., на паўн. беразе воз. Вішціціс. Засн. ў 1-й пал. 16 ст. У 1566 пабудаваны касцёл, пры ім адкрылася школа. 8.9.1570 мястэчка атрымала магдэбургскае права. Моцна пацярпела ў войнах 17 ст. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Вішціціс** (Vištytis), мястэчка ў Літоўскай Рэспубліцы, у Вілкавішкскім р-не Марыямпальскага пав., гл. *Вішцінец*.

**возны**, службовая асоба *земскіх судоў* у ВКЛ у 16—18 ст. Прызначаўся ваяводам па прадстаўленні земскага суда і шляхты. У кожным павеце было некалькі В., галоўнага з іх называлі генералам. Пасля прыняцця прысягі прозвішча В. заносілі ў земскія і гродскія кнігі. В. дастаўляў позвы асобам у суд (пры неабходнасці дастаўляў гэтых асоб у суд), уводзіў ва ўладанне зямлёю і маёнткамі новых гаспадароў, загадваў сялянам падпарадкоўвацца ім. Аглядаў месца і сляды злачынства, праводзіў дазнанне, допыт падазронага, сведак, пацярпелых, вызначаў памеры шкоды і інш. Вынік агляду і інш. дзеянняў паведамляў суду пісьмовай рэляцыяй. Пры выкананні абавязкаў павінен быў мець пры сабе «старану» (панятых). Узнагароду за службу атрымліваў ад асоб, па справах якіх дзейнічаў. Недатыкальнасць яго асобы ахоўвалася Статутам ВКЛ 1588. Там жа была вызначана і адказнасць В. за злоўжыванне і несумленнае выкананне абавязкаў — аж да пакарання смерцю. Да ўвядзення пасады В. яго абавязкі выконваў *віж*.

***Генадзь Маслыка.***

**Воінь** (?—да 1338), князь полацкі. Брат вял. князя літоўскага *Гедзіміна*. Час і акалічнасці пачатку княжання ў Полацку невядомыя. Упершыню згадваецца ў 1326, калі разам з князямі *Васілём* Менскім і Фёдарам Святаславічам ужо як полацкі князь ездзіў паслом ад Гедзіміна ў Ноўгарад. Удзельнічаў у заключэнні мірнага дагавора з наўгародцамі і інфлянцкімі немцамі. Мір з крыжакамі аказаўся, аднак, нядоўгім. У 1333 і 1334 інфлянцкі магістр Эбергард фон Мангайм здзейсніў 2 вял. паходы на Полацк. В. памёр да 1338, калі полацкім князем быў ужо Нарымонт. Сын В. Любка загінуў у 1342 у барацьбе з немцамі на Пскоўшчыне, калі хадзіў на дапамогу пскавічам у войску Альгерда і Кейстута.

*Літ.*: Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896; Псковские летописи. Вып. 1—2. М.; Л., 1941—55; Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950.

***Васіль Варонін.***

**Войдат** (у праваслаўі Іван; каля 1345—пасля 1390), князь навагародскі. Старэйшы сын вял. кн. *Кейстута* і *Біруты*. Упершыню ўпамінаецца ў 1362, калі быў узяты крыжакамі ў палон пасля заняцця імі Коўна. Пасля вяртання з няволі каля 1365 ажаніўся. Ідэнтыфікуецца з кн. Іванам, братам Вітаўта, які ў канцы 1389 быў паслом да крыжакоў у справе планаваных другіх уцёкаў Вітаўта ў Прусію. Пазней выехаў туды разам з жонкай і сынам Юрыем. Хрышчэнне В. паводле правасл. абраду, відаць, адбылося ў час яго княжання ў Навагародку. Памёр на выгнанні ў Прусіі. З невядомай жонкай меў сыноў Юрыя і Конрада.

*Літ.*: Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Poznań; Wrocław, 1999. S. 200—201.

***Аляксей Шаланда.***

**Войны**, шляхецкі род герба «Трубы». Вядомы з 1-й пал. 15 ст. ў Бельскай зямлі (Падляшша), пасля валодалі маёнткамі ў інш. частках ВКЛ. Найб. вядомыя:

Лаўрын (Ваўжынец; ?—23.10.1580), сын Мацвея. Каралеўскі дваранін, пісар ВКЛ з 1566, адначасова падскарбі дворны ВКЛ у 1569—76 і падскарбі земскі ВКЛ з 1576; староста пінскі з 1574, квасаўскі, красніцкі, хвяйданскі, індурскі. Валодаў маёнткамі ў Берасцейскім (Расна, Боршчава), Гарадзенскім (Ласосна, Путрышкі), Ваўкавыскім (Свіслач), Навагародскім (Мярацічы) пав. У 1571 купіў у кн. К.І.Астрожскага в. Азяраны і воз. Свіцязь. У 1560-х г. кіраваў паўторнай валочнай памерай у Пінскім старастве. Пасол на соймы 1569, 1578, 1580.



Герб «Трубы» роду **Войнаў**. Малюнак 1798.

Андрэй (?—паміж 19.6.1628 і 1630), сын Лаўрына. Каралеўскі дваранін,

крайчы ВКЛ у 1592—1620, падчашы ВКЛ з 1620; староста гарадзенскі з 1601, ваўкавыскі з 1618.

Пётр (?—да 10.3.1633), сын Андрэя. Староста навадворскі, ваўкавыскі з 1626, падстолі ВКЛ з 1631.

*Валерый Пазднякоў.*

**Войны**, Грычыны-Войны, шляхецкі род герба «Трубы». Паходзілі ад пінскіх баяр Грычынаў, якія ў пач. 16 ст. валодалі маёнткамі Парэчча, Моладава, Праход, Варачэвічы, Моталь, Мерчычы, Крайновічы і інш. Ад імя Войны Мацвеевіча Грычыны (Грычыновіча) яго сыны ўтварылі прозвішча В. З 17 ст. некат. прадстаўнікі роду карысталіся прыдомкам Грычына. Вызнавалі праваслаўе, з канца 16 ст. пераходзілі ў каталіцтва. З 18 ст. ўжывалі графскі тытул. Найб. вядомыя:

Война Мацвеевіч Грычына (Воін Грычынавіч, хроснае імя Барыс; каля 1492—15.5.1582), сын Мацвея Грычыны (Грычынавіча). Падкаморы пінскі ў 1567—70, дзяржаўца лабенскі, бярштунскі, бяржанскі, ожскі, пераломскі, юрбаркскі.

Сямён (?—1599), сын Войны Мацвеевіча. Маршалак гаспадарскі ў 1584—88, кашталян мсціслаўскі з 1588; цівун ужвенцкі з 1567, дзяржаўца паштоўскі, паморскі, палангскі, горждаўскі. Выслужыў у вял. кн. Жыгімонта Аўгуста маёнткі ў Жамойці.

Рыгор (?—каля 1603), сын Войны Мацвеевіча. Суддзя земскі ваўкавыскі, войскі гарадзенскі, кашталян берасцейскі з 1593.

Сокал (?—1610), сын Войны Мацвеевіча. Кашталян мсціслаўскі ў 1599—1603 і берасцейскі з 1603; дзяржаўца ожскі і пераломскі.

Мацвей (?—чэрв. 1607), сын Сямёна. Каралеўскі сакратар, пісар ВКЛ з 1589, адначасова падскарбі дворны ВКЛ з 1605; цівун ужвенцкі і паюрскі. Вял. пасол у складзе пасольства 1590—91 у Маскву, якое прадоўжыла Ям-Запольскае перамір'е 1582 на 12 гадоў.

Габрыэль (?—1.1.1615), сын Войны Мацвеевіча. Каралеўскі сакратар, рэферэндар свецкі і вял. пісар ВКЛ у 1585—89, падканцлер ВКЛ з 1589; староста мерацкі, краснасельскі, пянянскі, опсаўскі. Вял. пасол у Маскву ў 1590—91.

Бенядзікт (?—1615), сын Войны Мацвеевіча. Вучыўся ў Віленскай акадэміі і за граніцай. Сакратар караля польскага і вял. князя ВКЛ Стафана Баторыя, кусташ віленскі, пробашч троцкі з 1576, біскуп віленскі з 1600. Правёў паўторную кананізацыю св. Казіміра.

Абрагам (Абрам; 1569—1649), сын Сямёна. Канонік віленскі з 1599, біскуп-суфраган віленскі з 1611, тытулярны біскуп метонскі, біскуп жамойцкі ў 1627—30 і віленскі з 1630.

Станіслаў (?—11.2.1649), сын Мацвея. Каралеўскі пакаёвы дваранін, цівун гандынскі з 1637, староста палангскі, кухмістр ВКЛ з 1640.

Антоній Юзаф (?—да 4.7.1747), канонік віленскі з 1724, пісар вялікі ВКЛ у 1730—40, прэпазіт троцкі з 1736, сакратар духоўны ВКЛ з 1740.

*Літ.*: Спрогис И. Духовное завещание мстиславского каштеляна Семена Войны — 1599 г., 1-го марта // Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1898. Кн. 12.

*Валерый Пазднякоў.*

**войны Рэчы Паспалітай з Турцыяй 17 ст.** Рэч Паспалітая ва ўзброеныя канфлікты з Турцыяй уступіла ў пач. 17 ст. Прычынамі гэтага стала ўмяшанне Польшчы ва ўнутр. справы Малдовы — васала Турцыі, паходы ўкр. казакоў на прычарнаморскія турэцкія ўладанні і напады крымскіх татараў на тэр. Рэчы Паспалітай. Непасрэднай прычынай стала аказанне Рэччу Паспалітай дапамогі Габсбургам у 1619 у вайне з турэцкім васалам трансільванскім кн. Габарам Бетленам і ўзяцце пад апеку малдоўскага гаспадара. Войскі Рэчы Паспалітай рушылі ў Малдову, дзе 19.9.1620 разбіты турэцка-татарскімі войскамі пад Цацорай непадалёку ад Ясаў. Паход у адказ турэцка-татарскіх войск на Рэч Паспалітую скончыўся іх паражэннем у *Хацінскай бітве 1621*, пасля якой дзярж. мяжа была ўстаноўлена па Днястры. У наступныя гады казацкіх войнаў Рэч Паспалітая ваявала гал.ч. з крымскімі татарамі — васаламі Турцыі. У 1672 туркі напалі на Рэч Паспалітую, захапілі Камянец-Падольскі і аблажылі Львоў. Рэч Паспалітая была вымушана 18.10.1672 заключыць Бучацкі мір, паводле якога саступіла Турцыі шмат укр. зямель і абавязалася выплачваць штогадовы гарач — 100 тыс. злотых. Сойм не ратыфікаваў мір. У 1673 войскі Рэчы Паспалітай аднавілі ваенныя дзеянні і атрымалі перамогу ў *Хацінскай бітве 1673*. У 1675 татары былі разбіты пад Львовам і Трамбоўляй, а 24.9.1676 турэцка-татарскае войска разграміў пад Жураўнай на Днястры кароль Ян III Сабескі. 17.10.1676 заключана перамір'е, паводле якого Рэч Паспалітая вярнула частку ўкр. зямель, страчаных у 1672. Войскі Рэчы Паспалітай адыгралі важную ролю ў разгроме туркаў у *Венскай бітве 1683* і бітве пад Парканамі (кастр. 1683), якія паклалі канец турэцкай экспансіі ў Еўропе. Рэч Паспалітая далучылася да заснаванай у 1684 антытурэцкай Святой Лігі, куды ўваходзілі Свяшчэнная Рымская імперыя, Венецыя, Папская дзяржава і Расія. Паходы ў Малдову ў 1685, 1686 і 1691 былі беспаспяховымі, нягледзячы на блакаду, не ўдалося вызваліць Камянец-Падольскі. У 1698 войскі Рэчы Паспалітай перамаглі турэцка-татарскія войскі пад Падгайцамі каля Цярнопаля. Паводле ўмоў Карлавіцкага міру 26.1.1699 Рэч Паспалітая атрымала Падолле з Камянцом-Падольскім і ўкр. землі на Правабярэжжы (страчаныя раней тэрыторыі Кіеўскага і Брацлаўскага ваяв.). Перыяд войнаў з Турцыяй скончыўся.

*Літ.*: Pajewski J. Buńczak i koncerz: Z dziejów wojen polsko-tureckich. Warszawa, 1963; Османская империя и страны Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы в XVII в. Ч. 1—2. М., 1998—2001.

*Валерый Пазднякоў.*

**Войны-Ясянецкія**, шляхецкі род герба «Гакі». Яго паходжанне звязана з віцебскімі баярамі Рамейкавічамі. Сын аднаго з іх, Война Богушавіч Рамейка, у сярэдзіне 16 ст. служыў княгіні Астрожскай і яе другому мужу Альбрэхту Ляскаму, валодаў невял. маёнткам Ясенец на р. Сэрвач у Навагародскім пав. У 1567 ён выстаўляў у войска 1 вершніка. Яго нашчадкі — павятовая шляхта ў Віцебскім, Навагародскім і Мазырскім паветах — ужывалі прозвішча В.-Я. (зрэдку з дадаткам старога прозвішча Рамейка) і карысталіся ўласным гербам, які адрозніваўся ад герба астатніх Рамейкавічаў дадаткам паўмесяца з зоркай уверсе гербавай выявы. З іх Ян (Іван) быў намеснікам віцебскага ваяводы ў 1591, 1597, Фёдар Мацвеевіч у 1634 валодаў маёнткам Ласосіна, Канстанцін у 1633—35 быў пісарам земскім віцебскім, Рыгор, мечнік мазырскі, заснаваў царкву ў Ясенцы. Найб. вядомы прадстаўнік роду Аляксандр (?—1689), войскі віцебскі, кашталян навагародскі (1684); меў сына Стафана і 2 дачок, адна з якіх выйшла за Яна Тызенгаўза, а другая, Тэрэза, выйшла спачатку за Шымана Караля



Агінскага, а пасля яго смерці (1699) за Станіслава Панятоўскага, падскарбія ВКЛ.

*Вячаслаў Насевіч.*

**войскі**, урад (пасада) у Польшчы з 13 ст. і ВКЛ з 16 ст. У час войнаў, калі шляхта з паспалітым рушэннем пакідала маёнткі, наглядаў за парадкам у павеце і апекаваў тых, хто застаўся ў маёнтках. У Польшчы В. былі гродскія і земскія, у ВКЛ толькі земскія (адзін на павет), якія падпарадкоўваліся старасце павятовага горада. Пасада В. ў ВКЛ была і дыгнітарскай (прыдворнай, гл. *Дыгнітарыі*).

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**войт** (ад сярэдневерхненям. Voget), кіраўнік мясцовай адміністрацыі ў гарадах і вёсках ВКЛ. 1) Кіраўнік гар. адміністрацыі ў канцы 14—18 ст. У дзярж. гарады В. прызначаў вял. князь ВКЛ з заможных феадалаў або мяшчан, а ў прыватнаўласніцкіх гарадах — іх уладальнікі. Мяшчане некат. гарадоў дамагліся права самім выбіраць В. (Орша, 1559; Пінск, 1581; Мазыр, 1578, і інш.). Пасаду В. прадугледжвала *магдэбургскае права*, але з 16 ст. ў гарадах Беларусі, дзе існавала самакіраванне (перш за ўсё на У Беларусі), пасада В. ўводзілася да ўстанаўлення магдэбургскага права. Класічнае магдэбургскае права зводзіла ролю В. да старшынства на шэфенскім судзе (*войтаўска-лаўніцкім судзе*). Аднак на Беларусі В. паступова набыў права вышэйшай адміністрацыйнай улады і *войтаўскага суда*. Меў значныя крыніцы даходаў. Акрамя судовых пошлін, набыткам В. былі пэўная частка розных натуральных падбораў («провиант войтовский»), доля прыбыткаў ад рыначнага гандлю, утрымання корчмаў, крам, часам зямельныя падараванні. Прызначаныя В. (звычайна з заможнай шляхты) часта перакладалі свае абавязкі на *лантвойтаў* (намеснікаў), варагавалі з гараджанамі. Дакументы змяшчаюць шматлікія скаргі на незаконныя дзеянні В.

2) Кіраўнік вясковай адміністрацыі ў 2-й пал. 16—18 ст. Тэрмін «В.» для сельскай адміністрацыі замацаваўся з часоў *валочнай памеры* і прыйшоў на змену тэрміну «*старац*». У путных баяр і зямян з канца 17 ст. В. называлі харужымі. На пасаду В. зацвярджаў уласнік уладання. Дзейнасць В. падлягала кантролю і суду ўрадніка маёнтка. Пры ўступленні на пасаду В. даваў прысягу на вернасць пану і на добрасумленнае выкананне сваіх абавязкаў. У падпарадкаванні В. знаходзілася некалькі вёсак, якія складалі асобную адм. адзінку — *войтаўства*. У кола абавязкаў В. ўваходзілі нагляд за парадкам паміж падданымі падначаленых яму вёсак, збор чыншу і інш. падбораў, кантроль за выкананнем паншчыны, талок, гвалтаў і інш. павіннасцей. В. сачыў за непарушнасцю межаў зямельных надзелаў, вёсак і ўладання, распараджаўся засяленнем і здачай у наём пустых зямель (за ўтойванне апрацоўваемых зямель В. караўся смерцю). В. адказваў за пажарную бяспеку, спраўнасць дарог і мастоў. Сачыў, каб сяляне не ўцякалі, каб хадзілі ў царкву, хрысцілі дзяцей і г.д. Штотыднёва даваў справаздачу панскаму двару. У выкананні абавязкаў войту дапамагалі падвойскія і лаўнікі. За выкананне сваіх абавязкаў В. атрымліваў вольны ад цяглых павіннасцей зямельны надзел (звычайна 1 ці 0,5 валокі). З 2-й пал. 17 ст. ў дзярж. уладаннях на ўтрыманне вясковай адміністрацыі (В. і цівуноў) насельніцтва стала плаціць спец. падатак «expenso fundi».

*Літ.*: Дружчыц В. Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх местах з Майдэборскім правам // Запіскі аддзелу гуманітарных навук Ін-та бел. культуры. 1928. Кн. 3; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв.: (Исслед. по истории соц.-экон., полит. и культ. развития). М., 1961; Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Мянжынскі В. Войты на Беларусі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1986. № 4.

***Алесь Доўнар* (2), *Таісія Доўнар* (1).**

**войтаўска-лаўніцкі суд**, адзін з мясцовых судоў для гарадскога насельніцтва ВКЛ. Дзейнічаў у гарадах, якія мелі магдэбургскае права. Яго юрысдыкцыі падлягалі мяшчане. Справа таксама разглядалася, калі ў судовай спрэчцы ў якасці істца выступаў жыхар горада, які не меў прывілея на магдэбургскае права, або феадал ці залежны ад яго чалавек. З'яўляўся асаблівай судовай калегіяй у складзе *войта* і *лаўнікаў*. За старшыню на судовых пасяджэннях быў войт, часам яго намеснік — *лантвойт*. Колькасць лаўнікаў залежала ад памераў горада, напр., у 17 ст. ў Капылі і Нясвіжы іх было 4, у Гародні — 11, у Менску і Берасці — 12. Пасяджэнне суда магло адбыцца пры ўмове, што прысутнічае не менш як палавіна лаўнікаў. Разглядаў крымінальныя справы, маёмасныя спрэчкі, сведчыў дагаворы куплі-продажу, завяшчанні маёмасці і інш. Судовыя рашэнні, кіруючыся законамі ВКЛ і меркаваннямі лаўнікаў, выносіў войт. За выкананне судовых функцыяй ён меў немалы прыбытак. Так, у 1688—89 войт Нясвіжа атрымаў за гэта па 400 злотых за год. У Гародні і Берасці па запісах у магістрацкіх кнігах назіраецца выразны падзел В.-л.с. і бурмістраўска-радзецкага суда, якія засядалі паасобку і толькі ў некат. выпадках маглі засядаць разам. У малых гарадах і ў большасці прыватнаўласніцкіх гарадоў лаўнікі, бурмістры і радцы ўваходзілі ў склад аднаго суда.

*Таісія Доўнар.*

**войтаўскі суд**, мясцовы суд у гарадах ВКЛ. *Войт*, які ўзначальваў адміністрацыю горада, меў права «судити, сказывати и карати». У грамаце 1390 на магдэбургскае права Берасцю ўпамінаецца толькі адна крыніца ўлады і суда — войт. У грамаце 1498 Полацку гаворыцца: «Теж войт справедливости сказанья оприч бурмистров и радец моцне вчинити может, але бурмистры и радцы без войта або без лентвойта ни одного сказанья вделати не мають». В.с. мог дзейнічаць і ў гарадах, якія яшчэ не атрымалі магдэбургскага права. Каралева Бона ў 1551 запатрабавала, каб у велікакняжацкіх гарадах судовыя спрэчкі паміж мяшчанамі староста разглядаў не адзін, а сумесна з гар. войтам і 2—3 прысяжнымі. У многіх прыватнаўласніцкіх гарадах, дзе не было ўведзена магдэбургскае права, таксама дзейнічалі В.с. або *войтаўска-лаўніцкі суд*. У 16 ст. былі прызначаны войты з правам уласнага суда ў Сураж, Веліж, Магілёў і інш. гарады ВКЛ, якія не мелі магдэбургскага права. Поруч з В.с. дзейнічалі *бурмістраўска-радзецкія суды*.

*Літ.*: Акты, относящиеся к истории Западной России. СПб., 1846. Т. 1. С. 180; 1848. Т. 3. С. 213; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Давед. Камент. Мн., 1989.

*Таісія Доўнар.*

**войтаўства**, 1) адміністрацыйна-гаспадарчая адзінка ў ВКЛ у 15—18 ст. У В. ўваходзілі адна або некалькі вёсак, што найчасцей складалі невял. зямельнае ўладанне на велікакняжацкіх землях, якім кіраваў сельскі *войт*, або горад, часам

з навакольнымі землямі, якім кіраваў гарадскі войт. 2) Назва пасады войта.

*Таісія Доўнар.*

**Войцех з Брудзева** (Wojciech z Brudziewa; каля 1445, Брудзева каля Каліша, Польшча—крас. 1495), польскі матэматык, астраном. Відаць, меў прозвішча Бляр. У 1468—74 вучыўся на філасофскім факультэце Кракаўскага ун-та, дзе атрымаў ступені бакалаўра (1470) і магістра (1474) вольных мастацтваў. З 1476 выкладаў там астраномію і матэматыку. Адначасова вывучаў тэалогію, здабыў ступень бакалаўра тэалогіі (1490). У 1482 і 1485 дэкан факультэта вольных мастацтваў, з 1494 пракуратар ун-та. Адзін з заснавальнікаў сусветна вядомай у канцы 15 ст. Кракаўскай астранамічна-астралагічнай школы, настаўнік М.Каперніка. Выдаў «Каментарыі да тэорыі планет Георгія Пурбаха» («Commentum in Theoricas planetarum Georgii Purbachii», Мілан, 1494), склаў астранамічна-астралагічны каляндар (1481), «Тлумачальныя табліцы пра рух нябесных цел» (1482), некалькі прагностыкаў і гараскопаў. У лют. 1494 пакінуў Кракаў і як сакратар вял. князя літоўскага Аляксандра пераехаў у Вільню.

*Літ.*: Palacz R. Wojciech Blar z Brudziewa // Materiały i studia Zakładu historii filozofii starożytnej i średniowiecznej. Warszawa, 1961. T. 1; Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Мн., 1979.

*Валерый Пазднякоў.*

**Войшалк** (1225?—1268), вялікі князь літоўскі [1264—66]. Сын *Міндоўга*. Відаць, упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1253 (фактычна 1252) як не названы па імю сын Міндоўга, якога той накіраваў у набег супраць галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васількі Раманавічаў у ваколіцы Турыйска. Каля 1257 В. ад імя бацькі заключыў мір з Данілам, сасватаў за Шварна Данілавіча сваю сястру і ўступіў Раману Данілавічу Навагародак, Слонім і Ваўкавыск, прычым 2 апошнія — ад свайго імя, што сведчыць пра іх папярэдняе ўваходжанне ва ўдзел В. Пасля разрыву міру ў 1258 В. разам з Таўцівілам захапіў Рамана Данілавіча ў Навагародку і, напэўна, забіў яго. З таго часу, найб. верагодна, пачалося княжанне В. ў Навагародку, пра якое летапіс паведамляе рэтраспектыўна пад 1263. В., застаючыся язычнікам, быў выключна жорсткі супраць сваіх падданых, але потым прыняў правасл. веру і радыкальна змяніўся. Ён пакінуў княжацкі пасад і пастрыгся ў манахі, 3 гады жыў у Палонскім манастыры на Валыні, а потым, пасля няўдалай спробы паломніцтва ў Палесціну, заснаваў уласны манастыр каля Навагародка (*Лаўрышаўскі манастыр*). У гэты час яго адносіны з Міндоўгам былі напружанымі. Пасля забойства Міндоўга (1263) В. уцёк у Пінск. Паводле Наўгародскага 1-га летапісу, ён даў клятву адпомсціць за бацьку і на 3 гады адмовіўся ад манаства. У 1264, пасля забойства новага вял. князя Траняты, якое, магчыма, было арганізавана В., ён атрымаў ваенную дапамогу ад пінскіх князёў і захапіў Навагародак, дзе да яго далучыліся бацькавы прыхільнікі, а затым дамогся ўлады над бацькоўскай вотчынай у Літве, дзе пакараў смерцю сваіх ворагаў. Пры гэтым ён абапіраўся на падтрымку швагра Шварна, а сябе прызнаў васалам галіцка-валынскага кн. Васількі Раманавіча. З дапамогай валынскага войска В. заваяваў Дзяволтву і Нальшчаны, зноў аб'яднаўшы асноўныя літоўскія княствы і Навагародскую зямлю пад адной уладай. У залежнасці ад яго знаходзіліся Полацк і Віцебск, пра што сведчыць грамата полацкага кн. Ізяслава каля 1265. Прыблізна да 1266 Шварн заставаўся суправіцелем В., а затым В. цалкам перадаў яму ўладу, вярнуўся ў манаства і пасяліўся ва Угроўскім манастыры на Валыні. Прыблізна ў крас. 1268 старэйшы брат Шварна Леў Данілавіч паклікаў В. да сябе ва Уладзімір Валынскі, дзе забіў яго ў час бяседы. Летапіс тлумачыць забойства тым, што Леў меў крыўду на В., які перадаў уладу над Літвой і Навагародкам не яму, а Шварну.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Волан** (Волян) Андрэй (пасля 1530, Польшча—6.1.1610), ідэолаг рэфармацыйнага руху ў ВКЛ, паліт. дзеяч, філосаф і правазнавец; адзін з заснавальнікаў свецкага кірунку ў сац.-паліт. думцы. Пры падтрымцы Радзівілаў вучыўся ва ун-тах Франкфурта-на-Одэры і Каралявца. Выбіраўся паслом у сойм Рэчы Паспалітай ад шляхты Ашмянскага пав., дзе меў родавы маёнтак. Быў сакратаром каралёў Жыгімонта II Аўгуста, Стафана Баторыя, Жыгімонта III Вазы. Вызнаваў кальвінізм. Аўтар палеміка-тэалагічных твораў, палітыка-прававых і этычных трактатаў, прамоў. Пісаў пераважна на лац. мове. Выступаў супраць асн. догматаў і арганізацыйнай будовы каталіцкай царквы і ў той жа час супраць радыкальных плыняў рэфармацыі ў ВКЛ. Вёў палеміку з езуітамі. Яго творы былі занесены каталіцкім духавенствам у «Індэкс забароненых кніг». Антыкаталіцкія працы В. перавыдавалі гугеноты Францыі і пратэстанты Германіі. У працах «Пра палітычную або грамадзянскую свабоду» («De libertate politica sive civili», Кракаў, 1572), «Прамовы да сената... » («Oratio ad senatum...», 1572), «Пра шчаслівае жыццё, або Найвышэйшае чалавечае дабро» («De vita beata sive summo hominis bono», Вільня, 1596), «Пра дзяржаўнага мужа і яго асабістыя дабрачыннасці» («De principe et propriis eius virtutibus», Гданьск, 1608) выступаў за рэформы ў сац. і паліт. адносінах, праве, дзярж. кіраванні. Распрацаваў канцэпцыю свабоды чалавека (абарона маёмасці, асабістай бяспекі, свабоды веравызнання, усеагульнай згоды і міру ў грамадстве). У творчасці В. развіты некаторыя ідэі, выказаныя ў свой час Ф.Скарынам. Ён імкнуўся да вырашэння грамадскіх супярэчнасцей на маральным, фармальна-юрыдычным узроўні, рацыянальнай і мэтанакіраванай дзейнасці саслоўяў, сацыяльных груп, кіруючых колаў на чале з манархам. Ідэалагічнымі лозунгамі абвяшчаў агульную карысць і сацыяльную гармонію. Звяртаўся да тэорыі натуральнага права і выкарыстоўваў для яе характарыстыкі раннехрысціянскі маральны прынцып: «І гэтак ва ўсім, як хочаце, каб з вамі абыходзіліся людзі, так і вы абыходзьцеся з імі». В. не абмяжоўваўся аналізам сацыяльнай рэчаіснасці праз прызму абноўленага хрысціянства і асветніцтва, а імкнуўся знайсці натуральныя прычыны існавання рэчаў і з'яў. Таму дзяржаву, правы і інш. сац.-паліт. інстытуты ён разглядаў як вынік чалавечай дзейнасці, аб'екты ўдасканалення рацыянальных пошукаў і мудрасці людзей, што падкрэслівала яго прыхільнасць да свецкага складу мыслення.

*Тв.*: Бел. пер. — Пра дзяржаўнага мужа і яго асабістыя дабрачыннасці // Спадчына. 1991. № 6; 1992. № 1; Літ. пер. — Rinktiniai raštai / Sudarė M.Ročka ir I.Lukšatė. Vilnius, 1996.

*Літ.*: Сокол С.Ф. Социологическая и политическая мысль в Белоруссии во II половине XVI века. Мн., 1974; Падокшын С.А., Шатон В.К. Андрэй Волан і яго трактат «Пра шчаслівае жыццё, або Найвышэйшае чалавечае дабро» // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 1; Кавалёў С.В. Станаўленне польска-



Угры. Вылучылася са складу Смаленскага княства ў 1239 (паводле інш. меркаванняў, у 1219), калі *Вязьма* была аддадзена ў валоданне князю Андрэю Уладзіміравічу Доўгай Руцэ, які стаў родапачынальнікам князёў *Вяземскіх*. У склад В.к., магчыма, уваходзіў *Дарагабуж* (ёсць меркаванне, што, наадварот, Вязьма да свайго вылучэння належала Дарагабужскаму ўдзелу). У 1300 князь Андрэй Міхайлавіч Вяземскі дапамог дарагабужцам перамагчы смаленскага князя Аляксандра Глебавіча. У далейшым вяземскія князі зноў трапілі ў залежнасць ад Смаленскага княства. Княствам сумесна кіравалі 2 дынастыі з прадстаўнікоў смаленскай галіны князёў і мясц. вяземскіх уладароў. У пач. 15 ст. пачалася барацьба за В.к. паміж ВКЛ і Вял. княствам Маскоўскім. У 1403 горад раптоўна захапіў мсціслаўскі князь Лугвен Альгердавіч. Пад уладай ВКЛ вяземскія князі захавалі свае ўладанні. Масква па-ранейшаму імкнулася распаўсюдзіць свой уплыў на Вязьму, але паходы 1406, 1408, 1445 былі безвыніковыя. Паводле *дагавора 1449* рускія землі падзелены на сферы ўплыву ВКЛ і Вял. княства Маскоўскага, Вязьма была прызнана за ВКЛ. Адразу пасля далучэння да ВКЛ Вяземскага і Смаленскага княстваў, усталявання ўлады вял. князя ВКЛ над *Вярхоўскімі княствамі* была створана сістэма кіравання шэрагам перыферыйных княстваў і ўладанняў, на чале якой стаяў смаленскі намеснік. Вяземскія князі са сваімі баярамі і слугамі ўваходзілі ў склад смаленскага апалчэння, падпарадкоўваліся ў ваенных адносінах смаленскаму намесніку і сплачвалі штогадова асобы падатак — пасошчыну, якая паступала ў смаленскую скарбніцу. В.к. амаль стагоддзе вызначала ўсх. граніцу ВКЛ. Яго межы на 3 дасягалі вярхоўяў Дняпра, на У, відаць, заходзілі за р. Гжаць, на Пн уключалі ў свой склад горад Хлепень на р. Вазуза і амаль што даходзілі да Волгі. Паўд. граніцу В.к. ўтварала рака Угра. Землеўладальнікамі ў княстве былі не толькі прадстаўнікі мясц. родаў, але і прышлыя. Шэрагам вяземскіх валасцей валодалі князі Глінскія (Тур'е, Судзілаў, Шацельшча). Пану Івану Хадкевічу належала хлепеньская валасць Рагачоў. З 1487 Рас. дзяржава пачала ажыццяўляць арганізаваны ваенны націск на В.к. Аднак на маскоўскі бок перайшоў толькі адзін князь Андрэй Юр'евіч — дробны вяземскі землеўладальнік. Інш. вяземскія князі, на чале са старэйшым князем Міхаілам Дзмітрыевічам, засталіся верныя свайму гаспадару. Зімой 1492—93 маскоўскае войска (5 палкоў) на чале з Данілам Шчанём захапіла Вязьму. Шмат вяземскіх князёў трапіла ў палон і было адвезена ў Маскву, а потым, пасля прынесенай прысягі, размеркавана як памешчыкі ў далёкія рэгіёны. Тыя вяземскія князі, што ўратаваліся (Жылінскія, Казлоўскія, Крашынскія), атрымалі новыя ўладанні і пасады ў межах ВКЛ. 3.5.1495 у Вязьме з'явіўся маскоўскі намеснік. Былое В.к. ў складзе Рас. дзяржавы было пераўтворана ў край паменнага землеўладання.

*Літ.*: Виноградов И.П. Исторический очерк города Вязьмы с древнейших времен до XVII в. (включительно). М., 1890; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995.

***Віктар Цемушаў.***

**Вяземскія**, княжацкі род уладальнікаў *Вяземскага княства*, потым княжацкі і баярскі род у Рас. дзяржаве і ВКЛ. У 14 ст. існавалі 2 дынастыі вяземскіх князёў: прадстаўнікі малодшай галіны смаленскіх князёў (Андрэй Міхайлавіч у 1300-х г., Фёдар Святаславіч да 1341) і нашчадкі Андрэя Уладзіміравіча Доўгай Рукі, сына смаленскага князя Уладзіміра Рурыкавіча (памёр у 1239). Прадстаўнікі абодвух дынастый (Іван Святаславіч і Аляксандр Міхайлавіч) трапілі ў літоўскі палон у 1403, калі Вязьма была далучана да ВКЛ. Ужо раней частка В. служыла смаленскім князям. У 1404 разам з апошнім смаленскім князем Юрыем Святаслававічам у Маскву ад'ехаў Сямён Мсціслававіч В. У 1406 ён быў забіты сваім гаспадаром. У 15 ст. В. былі васаламі вял. князёў літоўскіх. Сярод актыўных прыхільнікаў Свідрыгайлы Альгердавіча ўпамінаецца Міхаіл Львовіч В. (загінуў у 1435). Пры Казіміру і яго сыне Аляксандру падараванні атрымлівалі князі Канстанцін, Іван Канстанцінавіч, Іван Аляксандравіч, Барыс Дзмітрыевіч Хмелітка і інш. Да канца 15 ст. род В. моцна разросся, з яго вылучыліся князі Бываліцкія, Жылінскія, Казлоўскія, *Крошынскія*. Уладанні некаторых В. былі даволі вялікія. Да пачатку літоўска-маскоўскай вайны 1487—94 старэйшы ў родзе В. Міхаіл Дзмітрыевіч валодаў доляй у Вязьме і г. Хлепень з валасцямі, валасцямі Дуброва, Арэхаўна, Магілен, Нягодзін, Міцэнкі, Ждаць, атрымліваў гандлёвыя пошліны. Барысу Дзмітрыевічу належала валасць Труфанаў. Васіль Бываліцкі, акрамя Бываліцы на р. Вазуза, валодаў валасцямі Негамір і Сачоўкі. Леў Іванавіч Курэйшаў (князь Казлоўскі) акрамя Казлова трымаў Камянец, Малоту і Клін. Князі Крошынскія страцілі свае ўладанні ў самым пачатку вайны з Вялікім княствам Маскоўскім. Замест валасцей Цешынавічы, Сукромна, Альховец, Надслаў, Ад'ездзец яны атрымалі ўладанні ў Смаленскім пав., але і іх неўзабаве захапіў маскоўскі бок. З 1487 маскоўскія войскі мэтанакіравана спусташалі ўладанні В. Аднак амаль усе яны (акрамя Андрэя Юр'евіча) засталіся вернымі вял. князю літоўскаму. Зімой 1492—93 большасць В. захоплена ў Вязьме маскоўскім войскам. Міхаіл Дзмітрыевіч быў сасланы на Паўн. Дзвіну, а астатнія В. размеркаваны па Пераяслаў-Залескім, Кашырскім, Раманаўскім (Пашахонскім), Белазёрскім, Малаяраслаўскім, Кастрамскім і Серпухаўскім паветах. В., якія засталіся ў ВКЛ, атрымалі новыя ўладанні і пасады. Васіль Сямёнавіч Жылінскі стаў намеснікам медніцкім, атрымаў маёнткі (у т.л. двор Гайдуцішкі) «до очищеня отчизны своее». Сярод дваран без маёнткаў лічыўся князь Іван Казлоўскі. Іван Канстанцінавіч В. ў 1495 атрымаў у Лучыне (Гарадку) с. Прыселле. Івану Львовічу В. дапамог яго цесць смаленскі акольнічы Іван Кошка і выклапатаў яму двор у Віленскім пав., у яго былі ўладанні і ў Лукомскім княстве. В. адыгралі значную ролю ў гісторыі Расіі.

*Літ.:* Кузьмин А.В. Из опричников в прокуроры: к истории рода Вяземских // Сподвижники Великой Екатерины. М., 1997.

***Віктар Цемушаў.***

**Вязьма** (рус. Вязьма, цяпер горад, цэнтр Вяземскага р-на Смаленскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад, цэнтр *Вяземскага княства*, на р. Вязьма. Да 1239 уваходзіла ў склад Смаленскага княства, затым да 1403 была цэнтрам удзельнага Вяземскага княства. Выгаднае месцазнаходжанне В. пасярэдзіне Волга-Днепра-Окскага міжрэчча зрабіла горад важным гандлёвым і стратэгічным цэнтрам. У канцы 14 ст. на В. пашырыўся ўплыў Смаленскага княства, а ў 1403 яна захоплена ВКЛ. У складзе ВКЛ В. захавала статус цэнтра ўдзельнага княства, аднак



**Вялена**. Гравюра з малюнка Н.Орды. Сярэдзіна 19 ст.

у ваенна-адм. адносінах падпарадкоўвалася Смаленску. Адразу пасля далучэння В. да ВКЛ яна стала аб'ектам нападзенняў маскоўскіх войск. Паходы 1406, 1408 і 1445 былі беспасяховымі для Масквы. У 1492—93 В. захоплена маскоўскімі войскамі і стала адным з павятовых цэнтраў Рас. дзяржавы.

*Віктар Цемушаў.*

**Вялена** (літ. Велюона, Veliuona, цяпер мястэчка ў Юрбаркскім р-не Таўрагскага пав., Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойцкім княстве, на р. Нёман. У 13 ст. тут, на гары, якая пазней атрымала назву Магіла Гедзіміна, пабудаваны замак, паводле некат. звестак, ініцыятарам будаўніцтва быў вял. князь *Віцень*. Паводле легенды, тут памёр і пахаваны Гедзімін, які загінуў недалёка ад В. На працягу 14 ст. крыжакі неаднаразова спрабавалі падпарадкаваць В. і яе наваколлі. У 1348 і 1364 замак захоплены крыжакамі. У 1411 на Замкавай гары пабудаваны новы мураваны замак. Недалёка ад В. ў 1411—22 праходзілі перагаворы паміж Польшчай і ВКЛ з аднаго боку і Нямецкім ордэнам з другога. У 1421 пабудаваны касцёл. Паводле *Мельнскага міру 1422* у ВКЛ. У пач. 16 ст. цэнтр старасства, якое паводле попісу войска ВКЛ 1528 выстаўляла 242 конікаў. 28.5.1580 мястэчка атрымала магдэбургскае права, мела герб. З 1569 уладанне вял. князя. У канцы 18 ст. старасства знаходзілася ў валоданні Панятоўскіх. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Валерый Грынявецкі.*

**Вялікая Бераставіца** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Бераставіцкага р-на Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Гарадзенскім пав. Троцкага ваяв., на р. Бераставічанка. Упершыню ўпамінаецца як Бераставіца пад 1506 у грамаце вял. кн. Аляксандра аб падараванні гэтага маёнтка маршалку гаспадарскаму Аляксандру Хадкевічу. З 1549 належала яго сыну Рыгору Хадкевічу, які распачаў тут будаўніцтва рэзідэнцыі, потым унуку — Аляксандру Хадкевічу. Пасля яго смерці ўладанне адышло да яго роднай сястры, якая была замужам за прадстаўніком роду Сангушкаў. На карце Т.Макоўскага (1613) пазначана як мястэчка. У 1615(?) на месцы згарэлага драўлянага касцёла пабудаваны новы, у 1741 зроблена яго рэканструкцыя, з канца 18 ст. пры касцёле існавалі шпіталь і парафіяльная школа. Паводле прывілея караля Аўгуста II атрымала магдэбургскае права і герб. У сярэдзіне 18 ст. на гандлёвай плошчы пабудавана ратуша. З 2-й пал. 17 ст. ўладанне Мнішкаў, з апошняй чвэрці 18 ст. — Патоцкіх. У 1793 Юзаф Касакоўскі ажаніўся з Людвікай Патоцкай, за якой узяў у пасаг В.Б. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Бераставіцкага р-на. Мн., 1999; Семянчук Г. Аб Магдэбургскім праве і гербе мястэчка Вялікая Бераставіца ў XVIII ст. // Герольд Litherland. 2002. № 1—2.

*Валерый Грынявецкі.*



Да арт. **Вялікая Бераставіца**. Касцёл Візітацыі Дзевы Марыі.

**Вялікая вайна 1409—11**, вайна ВКЛ і Польскага каралеўства супраць Нямецкага ордэна з-за спрэчных тэрыторый (Добжынская зямля, Памор'е, Новая Марка, Жамойць). Непасрэднай падставай развязвання В.в. стала жамойцкае паўстанне супраць уладаў ордэна, якое пачалося ў канцы мая 1409 і было падтрымана вял. князем Вітаўтам. Калі Польшча ў канфлікце заняла бок Вітаўта, вял. магістр Ульрых фон Юнгінген 6.8.1409 абвясціў Ягайлу вайну. Ор-



дэнскае войска ўвайшло ў Добжынскую зямлю і паўн. Куявы і хутка авалодала імі. Польшча прайграла гэты этап вайны. Армія ВКЛ, ваюючы асобна, заняла Жамойць, пакінутую нямецкімі рыцарамі. 8.10.1409 Польшча і ордэн падпісалі перамір'е да 26.6.1410 (на ВКЛ яно не распаўсюджвалася, дагавор аб перамір'і з Вітаўтам ордэн падпісаў толькі 26.5.1410). Бакі выкарысталі час для актыўнай ваеннай і дыпламатычнай падрыхтоўкі да вырашальнай сутычкі. Адначасова канфлікт спрабавалі вырашыць праз міжнародны суд, аднак рашэнне суддзі чэшскага караля Вацлава IV ад 15.2.1410 пакінула ордэну правы на спрэчныя землі, таму Ягайла і Вітаўт не пагадзіліся з такім прысудам і не прызналі яго. 8—10.12.1409 у Берасці таемна прайшла іх ваенная нарада, на якой быў распрацаваны стратэгічны план летняй кампаніі. Было вырашана аб'яднаць сілы і скіраваць удар на Мальбарк, каб прымусіць ордэн прыняць генеральную бітву ў полі і, карыстаючыся вял. колькаснай перавагай, разграміць яго армію.

Рыхтуючыся да вайны, Ульрых фон Юнгінген 20.12.1409 падпісаў у Будзе антыпольскі дагавор з венгерскім каралём Жыгімонтам Люксембургскім, аднак не атрымаў ад яго ніякай дапамогі. Інфлянцкі ордэн таксама ўхіліўся ад удзелу ў генеральнай бітве і прыслаў свае сілы запозна. Ваенныя дзеянні саюзнікаў пачаліся адразу пасля заканчэння перамір'я (26.6.1410), але па прапанове Ульрыха фон Юнгінгена яго тэрмін быў прадоўжаны да 4.7.1410. За гэты час Ягайла і Вітаўт злучылі каля Чэрвіньска свае сілы, пераправіліся цераз Віслу на тэрыторыю ордэна і рушылі ў кірунку Мальбарка. Кіраўніцтва ордэна было дэзарыентавана манеўрамі праціўніка і не чакала з'яўлення яго аб'яднанай арміі на сваёй зямлі. Тым не менш вял. магістр паспеў своечасова перавесці сілы на Пд Прусіі, каб перакрыць шлях на сталіцу. 10.7.1410 ён спаткаў армію саюзнікаў на ўмацаванай пераправе каля Кужэнтніка, але Ягайла ўхіліўся ад бітвы і адвёў сілы назад, каб потым зноў павярнуць на Мальбарк. Ульрых фон Юнгінген пайшоў напярэймы і 15 ліп. сутыкнуўся з саюзнікамі недалёка ад Стэмбарка (Таненберга) і Грунвальда (Грунфельда), на полі паміж якімі і адбылася генеральная бітва (гл. *Грунвальдская бітва 1410*). Для ордэна яна скончылася ваеннай катастрофай: загінула ці трапіла ў палон больш за 2/3 яго арміі. Пасля нядоўгага адпачынку на полі бітвы армія Вітаўта і Ягайлы рушыла на Мальбарк, займаючы па дарозе прускія гарады і замкі. 25.7.1410 сталіца была ўзята ў аблогу, але Генрых фон Плаўэн паспеў падрыхтаваць яе да абароны, сабраўшы каля 4 тыс. рыцараў. На дапамогу яму паспяшаліся рыцары з Інфлянцкага ордэна і Германскай імперыі. З інфлянцкім маршалам Б.Гевельманам, які прывёў да Мальбарка 2 тыс. рыцараў, 8.9.1410 Вітаўт заключыў перамір'е, а 19.9.1410 зняў аблогу і накіраваў армію ВКЛ дамоў. 22.9.1410 пачаў адводзіць польскую армію і Ягайла. Так, нягледзячы на 2-месячную аблогу, Мальбарк выстаяў. Абараніўшы сталіцу, ордэн змог хутка вярнуць усе свае замкі ў Прусіі, занятыя саюзнікамі пасля бітвы пад Грунвальдам, і аднавіць узброеныя сілы. У кастр. 1410 Вітаўт зноў збіраў войска для далейшых дзеянняў, аднак да новага паходу ў Прусію не дайшло. Перад пагрозай вайны на два фронты (з ордэнам і яго саюзнікам імператарам Жыгімонтам Люксембургскім) Ягайла і Вітаўт пагадзіліся на прымірэнне з ордэнскай дзяржавай. Быў падпісаны *Тарунскі мір 1411*. Ордэн пайшоў на значныя тэрытарыяльныя саступкі: адмовіўся ад Жамойці і яцвяжскіх земляў на карысць ВКЛ (толькі на перыяд жыцця Ягайлы і Вітаўта), а Польскаму каралеўству вярнуў Добжынскую зямлю і абавязаўся выплаціць 100 тыс. коп чэшскіх грошаў у якасці выкупу за палонных. Пытанне прыналежнасці Дрэздэнка і Сантака перадавалася на міжнародны арбітражны разгляд, але Гданьскае Памор'е і Хелмінская зямля заставаліся ў межах ордэнскай дзяржавы. У выніку вайны Нямецкі ордэн страціў сваё дамінуючае становішча ў Балтыйскім рэгіёне, яго ваенны і асабліва эканам. патэнцыял быў моцна падарваны.

*Літ.*: Voigt J. Geschichte Preußens. Bd. 7. Königsberg, 1836; Caro J. Geschichte Polens. Th. 3. Gotha, 1869; Барбашев А. Витовт: Последние двадцать лет княжения, 1410—1430. СПб., 1891; Oehler M. Der Krieg zwischen dem Deutschen Orden und Polen-Littauen. Elbing, 1910; Die Staatsverträge des Deutschen Ordens in Preusen im 15. Jahrhundert. Bd. 1 (1398—1437). Königsberg, 1939; Kuczyński S.M. Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409—1411. Warszawa, 1960; Działania militarne w Prusach Wschodnich. Warszawa, 1998; Urban W. Tannenberg and after: Lithuania, Poland, and the Teutonic Order in search of immortality. Chicago, 2002.

***Генадзь Сагановіч.***

**Вялікая Літва**, гістарычная назва літоўскіх зямель, што былі ў складзе ВКЛ (з 1795 у складзе Рас. імперыі). Ужывалася з 16 ст. ў адрозненне ад *Малой Літвы* — літоўскіх зямель у складзе Прускага герцагства (1525—1701), пасля Прускага каралеўства (з 1701).

**«Вялікая хроніка»**, «Летопис, то ест Кройника великая з розных многих кройникаров диалектом руским написана», «Летописец, то есть Кройника великая з розных многих а досветчоных авторов и историков диалектом руским ест зложона», беларуска-ўкраінскі хранограф эпохі барока, своеасаблівая гістарычная энцыклапедыя свайго часу, першая сур'ёзная спроба выкладу сусветнай гісторыі на старабеларускай мове. Укладзена ў 1-й пал. 17 ст. Месца ўзнікнення дакладна невядома. Ранняя рэдакцыя помніка, найбольш верагодна, бел. паходжання, больш позняя — украінская. «В.х.» мае кампілятыўны характар, вылучаецца надзвычай шырокім храналагічным і геаграфічным ахопам падзей. Паводле жанравай структуры — звод гіст. аповесцей, апавяданняў і пагадовых запісаў. Асн. змест хранографа — гісторыя многіх краін і народаў, выкладзеная на падставе самых розных гісторыка-літ. крыніц. Складаецца з 3 асн. частак: «Хронікі ўсяго свету», «Хронікі славянарускай» («Хронікі славян») і *«Хронікі літоўскай і жамойцкай»*. 1-я частка грунтуецца пераважна на хроніцы аднайменнай назвы польскага гісторыка М.*Бельскага* і апісвае далёкую мінуўшчыну чалавецтва ад «стварэння свету» да часоў Карла Вялікага ўключна. Значнае месца ў ёй займае гісторыя стараж. Грэцыі, Рыма, Блізкага Усходу і Візантыі, а таксама біблейская гісторыя, зусім сцісла асветлена гіст. мінулае Зах. Еўропы 1-га тысячагоддзя н.э. «Хроніка славянаруская» прысвечана пераважна гісторыі Стараж. Русі ад заснавання Кіева да 1480, якой папярэднічаюць у творы беглы агляд біблейскай гісторыі і розныя артыкулы пра паходжанне славян і русаў. Асн. крыніцай гэтай часткі была *«Хроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяе Русі»* М.*Стрыйкоўскага*, які выклаў даўнюю гісторыю ўсх. славян паводле прац Я.Длугаша, Марціна з Мехава,



М.Кромера,С.Герберштэйна і стараж.-рус. летапісаў. Адзін з раздзелаў «Хронікі славянарускай» называецца «Хроніка Белай і Чорнай Русі». На «Хроніцы» Стрыйкоўскага грунтуецца і 3-я частка «В.х.» — «Хроніка літоўская і жамойцкая», прысвечаная гісторыі ВКЛ ад легендарнага князя Палемона да 1588. Дадатковымі крыніцамі паслужылі *«Хроніка Еўрапейскай Сарматыі»* і літоўска-бел. летапіс тыпу *Хронікі Быхаўца*. Гісторыя стараж. Русі, Беларусі, Украіны, Літвы і часткова Расіі і Польшчы падаецца ў «В.х.» ў сувязі з найб. яркімі старонкамі мінуўшчыны інш. краін і народаў як арганічная і важкая частка сусв. гісторыі. У творы сцвярджаецца ідэя адзінства паходжання і гісторыі ўсяго чалавецтва, раскрываецца багацце, значнасць і веліч гераічнага мінулага славянскіх народаў, якое падаецца з патрыятычных пазіцый. Энцыклапедычны характар зместу хронографа сведчыць аб вял. цікавасці бел. і ўкр. грамадства 17 ст. да зарубежнай і айчыннай гісторыі, шырыні поглядаў тагачасных чытачоў, а таксама аб багацці і разнастайнасці гісторыка-літ. твораў, што бытавалі ў эпоху барока на бел. і ўкр. землях. Апрача дакладных звестак пра сапраўдныя гіст. падзеі «В.х.» змяшчае шмат міфаў, легенд, паданняў і літ. апрацовак, у т.л. аповесці пра Траянскую вайну, Аляксандра Македонскага (гл. *«Александрыя»*), *Кулікоўскую бітву 1380* і інш. У ёй спалучана дакументальна-фактаграфічнае апісанне мінуўшчыны з мастацка-паэтычным яе адлюстраваннем. «В.х.» — важны этап у гісторыі бел. л-ры і гістарыяграфіі, своеасаблівы пераходны мост ад традыцыйных летапісаў і хронік да твораў гіст. белетрыстыкі ў яе сённяшнім разуменні. Мела вял. значэнне для пашырэння гіст. уяўленняў і сістэматызацыі ведаў нашых продкаў аб далёкай мінуўшчыне народаў свету. Уключэнне роднай гісторыі ў міжнар. кантэкст спрыяла ўмацаванню іх нац.-гіст. свядомасці, выхаванню пачуцця патрыятызму.

«В.х.» захавалася больш чым у 10 спісах: Маскоўскім, Санкт-Пецярбургскім, Кракаўскім, Табольскім і інш. Шырока бытавала на Беларусі і Украіне, у 18 ст. чыталася і перапісвалася нават у Сібіры. Гісторыя яе ўзнікнення, змест, крыніцы, дакладнасць гіст. звестак, жанрава-стылявыя і інш. асаблівасці грунтоўна не даследаваны. Апрача «Хронікі літоўскай і жамойцкай», выдадзенай у 1975 М.М.Улашчыкам у т. 32 «Поўнага збору рускіх летапісаў», большая частка яе тэксту не апублікавана.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**ВЯЛІКІ КНЯЗЬ**, г а с п а д а р, найвышэйшы княжацкі тытул у ВКЛ. В.к. быў кіраўніком дзяржавы. Яму былі падначалены князі, магнаты, якія кіравалі асобнымі княствамі, землямі, вотчынамі. Выбіраўся феадаламі, звычайна з сыноў ці блізкай радні папярэдняга В.к. Меў шырокія паўнамоцтвы: весці міжнар. справы, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір, распараджацца ўзброенымі сіламі дзяржавы, дзярж. маёмасцю, даходамі і скарбам, дараваць дзярж. маёмасць, тытулы і званні, ажыццяўляць вышэйшы суд і памілаванне асуджаных. Яму належала заканадаўчая ініцыятыва, усе асн. законы і праваўыя акты выдаваліся за яго подпісам. *Прывілей 1447* і *прывілей 1492* юрыдычна абмежавалі ўладу В.к. Паводле іх ён не меў права самастойна вырашаць найб. важныя пытанні знешняй і ўнутранай палітыкі. Нягледзячы на тое, што заканадаўчыя акты, у т.л. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*, падкрэслівалі, што ўлада В.к. ад Бога, яго становішча было тыповым для абмежаванага феад. манарха, правы яго грунтаваліся на выбарнай аснове. Калі ў 14 ст. *Рада Вялікага княства Літоўскага* пры В.к. была толькі дарадчым органам, то пазней яе значэнне намнога павысілася, многія мерапрыемствы дзярж. кіравання маглі быць здзейснены толькі з яе згоды. У адсутнасць В.к. рада фактычна была вышэйшым дзярж. органам і дзейнічала самастойна. Абмежаванне ўлады В.к. прадугледжвалася заканадаўствам ВКЛ у форме клятвы і абяцання В.к. захоўваць пэўныя правы і прывілеі, а таксама ў форме прамой забароны. Напр., В.к. забаранялася пачынаць вайну або ўстанаўліваць падаткі на ваенныя патрэбы без дазволу на тое сойма, выдаваць законы, якія б пярэчылі Статуту ВКЛ, раздаваць духоўныя і свецкія пасады, тытулы і землі ВКЛ іншаземцам, у т.л. польскай шляхце. Пасля *Люблінскай уніі 1569* В.к. ВКЛ адначасова быў каралём Польшчы, стаяў на чале агульнай саюзнай дзяржавы — *Рэчы Паспалітай*. В.к. акрамя гэтага тытула, меў тытулы па назве земляў, якімі валодаў. Напр., Жыгімонт III Ваза меў тытулы караля польскага, вялікага князя літоўскага, рускага, прускага, жамойцкага, мазавецкага, інфлянцкага, наследнага гаспадара і караля шведскага, гоцкага, вандальскага, вялікага княжыча фінляндскага і інш. В.к. літоўскімі былі: Міндоўг [сярэдзіна 1230-х г.—1263], Транята [1263—64], Войшалк [1264—66], Шварн [1267—1270?], Трайдзень [1270?—82?], Даўмонт [1280-я г.], Будзівід [1280—90-я г.], Бурдзікід [1280—90-я г.], Віцень [1295—1316], Гедзімін [1316—41, заснавальнік дынастыі Гедзімінавічаў], Яўнут [1341—45], Альгерд [1345—77], Ягайла [1377—81, 1382—92, кароль польскі Уладзіслаў II у 1386—1434; заснавальнік дынастыі Ягелонаў], Кейстут [1381—82; у 1345—77 падзяляў уладу з Альгердам], Вітаўт [1392—1430], Свідрыгайла [1430—32], Жыгімонт Кейстутавіч [1432—40], Казімір [1440—92, адначасова кароль польскі Казімір IV з 1447], Аляксандр [1492—1506, адначасова кароль польскі з 1501], Жыгімонт Стары [1506—48, адначасова кароль польскі Жыгімонт I], Жыгімонт Аўгуст [1548—72, адначасова кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст], Генрык Валезы [1573, адначасова кароль польскі], Стафан Баторый [1576—86, адначасова кароль польскі], Жыгімонт Ваза [1587—1682, адначасова кароль польскі Жыгімонт III], Уладзіслаў [1632—48, адначасова кароль польскі Уладзіслаў IV], Ян Казімір [1648—68, адначасова кароль польскі Ян II Казімір], Міхал Вішнявецкі [1669—73, адначасова кароль польскі], Ян Сабескі [1674—96, адначасова кароль польскі Ян III], Аўгуст Моцны [1697—1706, 1709—33, адначасова кароль польскі Аўгуст II], Станіслаў Ляшчынскі [1704—09, 1733, адначасова кароль польскі], Аўгуст III [1733—63, адначасова кароль польскі], Станіслаў Аўгуст Панятоўскі [1764—95, адначасова кароль польскі]. Пасля заваявання Беларусі і значнай часткі Літвы ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* цар Аляксей Міхайлавіч унёс дапаўненне ў царскі тытул: «Всея Великия и Малыя и Белыя России самодержец Литовский, Волынский и Подольский». Пасля ліквідацыі ВКЛ у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у канцы 18 ст. тытулам В.к. літоўскага да 1917 карысталіся рас. імператары.

У 14—15 ст. тытулам В.к. карысталіся некат. значныя ўдзельныя князі.

***Генадзь Маслыка.***



Герб **«Вянява»**.

**«Вянява»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 80 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Белазоры, Длугашы, Ляшчынскія, Мэнжыкі. У залатым полі чорная галава зубра з залатым кальцом у ноздрах; клейнод — над прылбіцай з каронай палова залатога каранаванага льва з мячом у правай лапе. Вядомы з пач. 14 ст. У час знаходжання на троне Станіслава Ляшчынскага [1704—09, 1733] герб «В.» выкарыстоўваўся як элемент у дзярж. сімволіцы Рэчы Паспалітай.

***Валерый Пазднякоў.***

**Вярбілава** (літ. Вірбаліс, Virbalis, цяпер мястэчка ў Вілкавішкім р-не Марыямпальскага пав., Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойцкім княстве. Вядома з 1529. Да 18 ст. называўся таксама Новая Воля. У 1536 атрымала прывілей на права называцца мястэчкам і праводзіць таргі. 15.6.1593 атрымала магдэбургскае права, існавалі рамесныя цахі (у 1602 заснаваны цэх шаўцоў і краўцоў). У 1643 заснаваны кляштар і касцёл дамініканцаў. З 1785 пры кляштары дзейнічала школа. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Літ.*: Baliulis A., Miškinis A. Virbalis // Lietuvos TSR urbanistikos paminklai. Vilnius, 1985. T. 8.

***Валерый Грынявецкі.***

**вярста**, мера даўжыні ў ВКЛ. Была роўная прыблізна 1500 м (5 В. складалі 1 *мілю*), вял. В. складалася з 1000 сажняў (каля 2000 м).

**Вярхоўскія княствы**, дробныя княствы ў вярхоўях р. Ака. У *дагаворы 1449* паміж Вял. княствам Маскоўскім і ВКЛ мясц. князі названы «вярхоўскімі». Тэрмін «В. к.» упершыню ўжыты М.К.Любаўскім у 1892. В.к. вылучыліся з Чарнігаўскага княства ў 1246 пасля смерці князя Міхаіла Усеваладавіча, родапачынальніка вярхоўскіх князёў. Першапачаткова існавалі 3 В.к.: Карачаўскае, Навасільскае і Тарускае. Замацаванню самастойнасці чарнігаўскіх удзелаў садзейнічала фактычнае знішчэнне татарамі Чарнігаўскага княства ў 1-й пал. 14 ст. На працягу 14 ст. з Тарускага княства вылучыліся Абаленскі і Валконскі ўдзелы, з Карачаўскага — Звянігарадскі, Казельскі і Ялецкі, з Казельскага — Перамышльскі ўдзел. У пач. 15 ст. Навасільскае княства распалася на Варатынскі, Адоеўскі і Бялёўскі ўдзелы. З часткі зямель Карачаўскага і Бялёўскага княстваў вял. князь літоўскі Вітаўт стварыў Мезецкае княства, а князі Карачаўскія змешчаны ў Масальску. У 15 ст. драбленне В.к. працягвалася. У сваёй палітыцы вярхоўскія князі арыентаваліся на больш моцныя дзярж. ўтварэнні, здольныя змагацца з Залатой Ардой. Таму ўжо ў пач. 14 ст. існаваў саюз В.к. з ВКЛ. Каля 1352, пасля ваеннай дэманстрацыі кн. Сямёна Гордага каля р. Угра, яны трапілі ў залежнасць ад Вял. княства Уладзімірскага. Часовы уплыў ВКЛ на верхнеокскія землі зноў распаўсюдзіўся, відаць, пасля *бітвы каля Сініх Вод 1362*. Але ўжо праз некалькі гадоў у час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1368—72* В.к. перайшлі на бок Масквы. Гэтаму, безумоўна, спрыяла антыардынская палітыка вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча, аднак нельга адмаўляць і сілавога націску. У 1369—70 Дзмітрый Іванавіч здзейсніў паход у напрамку Бранска, Калугі і Мцэнска. У выніку на навасільскі стол быў пасаджаны прыхільнік маскоўскага боку. Знешнепаліт. арыентацыя В.к. у 1380-я г. не была аднолькавай. Князі Навасільскія і Тарускія заставаліся ў залежнасці ад Масквы, Казельскія і Ялецкія трапілі пад уладу Разані (разанскі кн. Алег Іванавіч таксама рэалізоўваў праграму аб'яднання рус. зямель). Некат. князі Карачаўскія арыентаваліся на ВКЛ, іншыя захоўвалі незалежнасць. У 1393 самастойнасць Тарускага княства была ліквідавана, ярлык на валоданне ім набыў у хана Тахтамыша маскоўскі вял. князь Васіль I. Пры гэтым тарускія князі працягвалі валодаць сваімі вотчынамі. Частка іх ад'ехала да Вітаўта, атрымаўшы ад яго вял. частку скасаванага Карачаўскага княства. Адарваны ад Тарусы, як асобная адзінка працягваў існаваць Валконскі ўдзел Тарускага княства. Палітыка ВКЛ у адносінах да В.к. актывізавалася ў канцы 14 ст., калі Вітаўт заняў шэраг гарадоў у вярхоўях Акі. Пасля паражэння ў *бітве на Ворскле 1399* уплыў ВКЛ на В.к. паменшыўся. Аслабленне ВКЛ выкарыстала Масква, да якой быў далучаны Казельск. Экспансія ВКЛ у В.к. была найбольш паспяховая ў пач. 15 ст. У выніку ваенных дзеянняў 1406—08 Карачаўскае княства было ліквідавана, у Казельску, Любуцку і Мцэнску створаны намесніцтвы. Князь перамышльскі і, часова, князі Бялёўскія ад'ехалі ў Маскву. Навасільскія князі некат. час захоўвалі прыхільнасць да Масквы, але ў 1427 сталі васаламі Вітаўта, захаваўшы, у адрозненне ад інш. вярхоўскіх князёў, пэўную самастойнасць. У далейшым, да 1480-х г., В.к. заставаліся пад уладай ВКЛ. У ваенна-адм. дачыненні В.к. падпарадкоўваліся Смаленску, складаючы з ім асобную ваенную акругу на чале з намеснікам. Вярхоўскія князі са сваімі людзьмі ўваходзілі ў смаленскае апалчэнне. Гарады В.к. сталі смаленскімі «прыгарадамі». Сістэма землеўладання вярхоўскіх князёў была амаль поўнасцю разбурана. Большменш некранутымі заставаліся некат. ўдзелы навасільскіх князёў. З апошніх найб. уплывовым было Варатынскае княства. Уладанні князёў Варатынскіх павялічыліся амаль утрая дзякуючы падараванням Казіміра IV і Аляксандра Казіміравіча. Менавіта князям Варатынскім прызначалася роля трымаць першы абарончы рубеж супраць Маскоўскага вял. княства. Перамяшчэнне знешнепаліт. інтарэсаў ВКЛ у зах. напрамку і занядбанне інтарэсаў правасл. арыстакратыі, а таксама актывізацыя экспансіі Вял. княства Маскоўскага і пастаянны націск на пагранічныя землі прывялі да паступовага пераходу вярхоўскіх князёў на маскоўскую службу. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94* да Масквы адышла значная частка зямель вярхоўскіх князёў. Але землі мезецкіх князёў засталіся ў сумесным уладанні, а Любуцкае і Мцэнскае намесніцтвы, масальскія князі са сваімі вотчынамі захаваліся за ВКЛ. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* астатнія вярхоўскія землі апынуліся ў складзе Вял. княства Маскоўскага. Некат. час існаванне В.к. працягвалася, у 1562 скасаваны апошні ўдзел — Варатынскі.

## ВЯРХОЎСКІЯ КНЯСТВЫ у канцы XIII – пачатку XVI ст.




| | Гады далучэння тэрыторый да |
|---|---|
| Сталіцы княстваў у канцы XIII ст. | 1404 ВКЛ |
| Цэнтры ўдзелаў і княжацкіх уладанняў у XIV–XV стст. | 1494 Вялікага княства Маскоўскага |
| Іншыя гарады (у канцы XV ст.) | 1353 Вялікага княства Разанскага |
| Гарады, спустошаныя татарамі | Чарнігаўскія землі, якія ў другой палове XIII ст. перайшлі ў склад Разанскага княства |
| Валасныя цэнтры, сёлы | Найбольш буйныя зямельныя ўладанні |
| Цэнтры літоўскіх намесніцтваў (у канцы XV ст.) | князёў Мезецкіх (з роду Тарускіх) з канца XIV ст. |
| Граніцы княстваў у канцы XIII ст. (паводле даных XIII–XVI стст.) | князёў Варатынскіх каля 1494 |
| Граніцы далучаных тэрыторый, удзельных княстваў XIV–XV стст. | князёў Глінскіх |
| Агульная мяжа Вярхоўскіх княстваў | князёў Крошынскіх |
| Граніца ВКЛ у 1487 | Княствы і тэрыторыі, спустошаныя татарамі ў XIV–XV стст. |
| Граніца Вялікага княства Маскоўскага ў 1494 | Тэрыторыі сумеснага ўладання ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага паводле дагавора 1494 |

*Лічбамі на карце пазначаны*

**1** Вялікае княства Смаленскае

**2** Вялікае княства Уладзімірскае

**3** Вялікае княства Цвярское

**4** Мсціслаўскае княства

**5** Мурамскае княства (далучана да Масквы каля 1425)

**6** Сумесныя ўладанні Уладзіміра (прыкладна з 1362 Масквы) і Вялікага Ноўгарада

**7** Мітрапаліцкае ўладанне г. Алексін (з 1308-1326), якое каля 1390 было абменена маскоўскім вялікім князем Васіліем І на растоўскую валасць Караш (Святаслаў)

**8** Валасць Забярэга (частка Навасільскага княства)

*Заўвагі*

Карачаў у канцы XV ст. страціў статус горада;
Казельск разам з Перамышлем у 1401–1405 часова належаў Маскве;
з часоў Альгерда Сярэнеск быў падзелены папалам паміж маскоўскім і літоўскім бакамі

Аўтар В.М.Цемушаў

МАШТАБ 1:2 500 000



*Літ.*: Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Kuczyński S.M. Ziemie czernihowsko-siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий. М., 1982; Флоря Б.Н. Борьба московских князей за смоленские и черниговские земли во второй половине XIV в. // Проблемы исторической географии России. М., 1982. Вып. 1; Шеков А.В. Верховские княжества: (Краткий очерк политической истории, XIII—середина XVI вв.). Тула, 1993; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. [2 изд.] М., 2001

***Віктар Цемушаў.***

**Вярэйскія**, малодшая лінія маскоўскіх вялікіх князёў, прадстаўнікі якой жылі ў ВКЛ. Паходзілі ад вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Данскога. Прозвішча атрымалі ад г. Верая, які ім належаў. Перад смерцю Дзмітрый Данскі ў тастаменце адпісаў свайму трэцяму сыну Андрэю Дзмітрыевічу (1382—1432) ва ўдзел Мажайскае (з Вярэйскай воласцю) і Белазерскае княствы. Пасля смерці Андрэя Дзмтрыевіча гэты ўдзел быў падзелены. Узнікла Вярэйскае княства (1432) разам з Белазерскім княствам атрымаў яго малодшы сын Міхаіл Андрэевіч, родапачынальнік князёў В.; старэйшы сын, Іван Андрэевіч, стаў прадаўжальнікам роду князёў *Мажайскіх*. Найб. вядомыя:

Міхаіл Андрэевіч (?—1486), у час феад. вайны за трон Маскоўскага вял. княства паміж вял. князем маскоўскім Васілём II і князем звенігародска-галіцкім Юрыем Дзмітрыевічам падтрымаў спачатку апошняга, свайго дзядзьку, але потым перайшоў на бок Васіля II, які даводзіўся яму стрыечным братам. Разам з ім хадзіў супраць хана Улуг-Мухамеда (абодва трапілі ў палон, пазней вызвалены). У 1471 разам з Іванам III хадзіў на Ноўгарад Вялікі. У 1484 яго сын Васіль Удалы з сям'ёю ўцёк у ВКЛ. Іван III прымусіў Міхаіла Андрэевіча падпісаць некалькі пагадненняў, паводле якіх апошні абавязаўся не падтрымліваць з сынам сувязь, не прымаць яго ў свае ўладанні, у тастаменце адпісаць свой удзел вял. князю маскоўскаму. Пасля смерці Міхаіла Андрэевіча (1486) Вярэйскае княства далучана да Маскоўскага вял. княства. Меў сына Івана (памёр да 1485).

Васіль Міхайлавіч (Удалы; ?—каля 1501), старэйшы сын Міхаіла Андрэевіча. У 1468 і 1469 удзельнічаў у паходзе маскоўскага войска на Казань, у 1471 — на Ноўгарад, у 1472 і 1480 — супраць татарскага хана Ахмата. Быў жанаты з Марыяй Андрэеўнай Палеалог, пляменніцай жонкі Івана III, вял. княгіні маскоўскай Соф'і. У 1483 у сувязі з нараджэннем унука Іван III хацеў падараваць нявестцы каштоўныя каралі, што належалі яго першай жонцы, аднак высветлілася, што Соф'я ўжо падаравала іх на вяселле сваёй пляменніцы. Вял. князь загадаў каралі адабраць, а мужа і жонку арыштаваць. Ратуючыся, Васіль Удалы ўцёк у ВКЛ (1484). У 1493 Соф'я Палеалог выпрасіла яму дазвол вярнуцца на бацькаўшчыну, але той застаўся ў ВКЛ. На Беларусі вял. князь літоўскі Казімір у 1484 перадаў яму ва ўладанне Любеч на Дняпры, Койданаў, Усу, Старынкі, Іслач, Валожын і Радашковічы.

Соф'я Васілеўна (пасля 1480—1549), дачка Васіля Міхайлавіча Удалога. Выйшла замуж за Альбрэхта Гаштольда (да 1506). Вял. князь літоўскі Аляксандр пацвердзіў яе правы на бацькавы маёнткі. З улікам яе высокага паходжання вял. князь літоўскі Жыгімонт Стары ў 1522 дазволіў ёй, яе мужу і іхнім нашчадкам карыстацца пячаткай чырвонага воску (інш. князі, паны і шляхціцы звычайна карысталіся зялёнымі пячаткамі). У 1563 муж аддаў ёй у пажыццёвае валоданне маёнткі Трабы, Гальшаны і інш., у 1539 дазволіў пасля сваёй смерці валодаць маёнткамі і пажыццёвымі ўладаннямі да скону. Пасля смерці Соф'і ўсе яе ўладанні адышлі вял. князю літоўскаму як вымарачныя маёнткі.

*Літ.*: Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1883. S. 60, 366, 367; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 549—550; Dworzaczek W. Genealogia. Warszawa, 1959. Tabl. 23.

***Анатоль Грыцкевіч.***





**«Габданк»**, «А б д а н к», «А б д а н е ц», прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 300 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Бучацкія, Выгоўскія, Гарабурды, Гаштольды, Грамыкі, Канарскія. У чырвоным полі сярэбраны знак у выглядзе літары W; клейнод — над



Герб **«Габданк»**.

прылбіцай з каронай такі ж знак. Існуюць варыянты герба з клейнодам у выглядзе паловы залатога льва, які трымае ў лапах такі самы знак, і інш. Мяркуецца, што першапачаткова знак быў падобны на літару M, на мяжы 13—14 ст. ён быў перавернуты. У ВКЛ ужываўся пасля *Гарадзельскай уніі 1413*. Герб «Г.», дзе на знак пастаўлены крыж, атрымаў назву *«Сыракомля»*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Габрусь** Тамара Віктараўна (н. 2.10.1945, Мінск), бел. гісторык архітэктуры. Д-р мастацтвазнаўства (2002). Скончыла Бел. політэхн. ін-т (1968). У 1974—80 працавала ў выд-ве «Беларуская Энцыклапедыя». З 1980 старшы, з 2003 вядучы навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац. АН Беларусі. З 2003 чл. Рэспубліканскага экспертнага Савета па манументальным мастацтве СМ Рэспублікі Беларусь. Даследуе мастацтвазнаўчыя праблемы бел. дойлідства эпохі феадалізму, мураваную сакральную архітэктуру і манументальнае мастацтва бел. барока. Разам з Г.Галенчанкам увяла ў навук. ўжытак і атрыбутавала першыя на тэр. Цэнтр.-Усх. Еўропы праектныя арх. чарцяжы 16 ст. з Нясвіжа. Адзін з аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1979—87), «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1—6, 1987—94), энцыкл. даведніка «Архітэктура Беларусі» (1993), кн. «Скарына і яго эпоха» (1990), «Барока ў беларускай культуры і мастацтве» (1998, 2-е выд. 2000), эксперыментальнага падручніка па эстэтыцы для сярэдняй школы «Мастацтва бачыць свет» (2000). Аўтар-укладальнік кн. «Страчаная спадчына» (1998, 2-е выд. 2003), аўтар сцэнарыяў для відэафільмаў, зб-каў вершаў.

*Тв.*: Помнікі манументальнага дойлідства Міншчыны. Мн., 1991; Адлюстраванне канфесійна-палітычнай сітуацыі ў культавым дойлідстве Беларусі // Беларусіка = Albaruthenica. Мн., 1992. Кн. 2; Появление проектного чертежа в зодчестве Белоруссии XVI в. // Архитектурное наследство. М., 1996. Вып. 41; Архитектура Беларуси XVI в. в свете коллекции чертежей Дж.М.Бернардони // Нясвіж: Гісторыя. Культура. Мастацтва. Варшава; Мн., 1998; Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура бел. барока. Мн., 2001.

**Гадзяцкі дагавор 1658**, пагадненне аб вяртанні казацкай Украіны пад уладу польскага караля. Падпісаны 6(16).9.1658 у г. Гадзяч на Палтаўшчыне гетманам Запарожскага Войска І.*Выгоўскім* з камісарамі Рэчы Паспалітай — валынскім кашталянам С.К.Бянецкім і смаленскім кашталянам Л.К.Еўлашэўскім. Асновай Г.д. была ідэя ператварэння Рэчы Паспалітай у федэрацыю Кароны Польскай, ВКЛ і казацкай дзяржавы — Вялікага княства Рускага (у складзе Кіеўскага, Брацлаўскага і Чарнігаўскага ваяводстваў). Паводле Г.д. казацкая дзяржава, як і ВКЛ, магла мець сваю манету, войскі (30 тыс. казакоў і 10 тыс. наёмных жаўнераў), заканадаўчую ўладу. Выканаўчая ўлада ў ёй належала гетману, якога зацвярджаў бы кароль. Па 100 казакоў з кожнага палка атрымлівалі шляхецтва, а шляхце даравалася амністыя за ўдзел у вайне на баку Б.Хмяльніцкага. Правасл. царква ўраўноўвалася ў правах з каталіцкім касцёлам, правасл. мітрапаліт і епіскапы займалі месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай. Прадугледжвалася стварэнне 2 універсітэтаў з прафесарамі абодвух веравызнанняў, адкрыццё калегіумаў і гімназій, свабода друку і камплектавання бібліятэк. Г.д. стаў дыпламат. поспехам абодвух бакоў, які адкрываў магчымасці нармалізацыі этнаканфесіянальнага жыцця ў Рэчы Паспалітай, аднак ён не набыў рэальнай сілы. Варшаўскі сойм прыняў яго ў зменянай рэдакцыі, пазбавіўшы трактат шэрагу важных пунктаў, звязаных з аўтаноміяй казацкай дзяржавы. Гэта выклікала незадаволенасць нават у лагеры Выгоўскага. Яго праціўнікі, арыентаваныя на Маскву, узнялі частку Запарож-

скага Войска супраць гетмана. У выніку ўнутранай вайны Выгоўскі мусіў адмовіцца ад гетманскай улады, саступіўшы булаву Ю.Хмяльніцкаму, які падпісаў новае Пераяслаўскае пагадненне аб яшчэ большым падпарадкаванні Украіны цару.

*Літ.*: Костомаров Н.И. Собр. соч. Кн. 1, т. 2. СПб., 1903; Kaminski A. The cossak experiment in szlachta democracy in the Polish-Lithuanian Commonwealth: The Hadiach (Hadziacz) // Harvard Ukrainian Studies. 1977. № 2.

***Генадзь Сагановіч.***

**гаёўнік**, шляхецкі ўрад (пасада) у ВКЛ у 15—16 ст. Сачыў за гаямі з бортнымі дрэвамі, збіраў мядовую даніну, за што атрымліваў адпаведную яе частку. Падпарадкоўваўся намесніку воласці.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**«Газдава»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася больш за 200 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Гадлеўскія, Корфы, Міцуты, Немяро-

Герб **«Газдава»**.

вічы, Падбярэзскія, Пацы, Рымшы, Трызны, Храпавіцкія. У чырвоным полі 2 сярэбраныя ліліі, павернутыя ўверх і ўніз і змацаваныя залатым пярсцёнкам; клейнод — над прылбіцай з каронай выява такіх жа лілей на паўлінавым хвасце (герб «Г. I»). Існуюць варыянты герба: з 5 страусавымі пёрамі і 2 лілеямі ў клейнодзе («Г. II»); з 5 страусавымі пёрамі («Г. III»); з падзеленым на 2 часткі полем, дзе ў верхнім сярэбранага колеру змешчана чорная лілея, а ў ніжнім чорнага колеру — сярэбраная, клейнод — 3 страусавыя пёры («Г. IV»). Герб вядомы з пач. 14 ст.

***Валерый Пазднякоў.***

**газета**, друкаванае перыядычнае выданне, якое публікуе матэрыялы пра палітычныя, эканамічныя і культурныя падзеі. Еўрап. газеты весткі з ВКЛ друкавалі з 16 ст. 1-я вядомая Г. ў ВКЛ *«Авізы Гродзеньске»* выдавалася ў Гародні ў канцы 17 ст. У 1718—20 у Караляўцы (Кёнігсбергу, Прускае герцагства) лютэранскі святар Я.Рэкуць выдаваў польскамоўную Г. «Poczta Królewicka» («Каралявецкая пошта»). Яна была разлічана пераважна на чытачоў Караляўца і Вільні, публікавала навіны са сталіцы і інш. гарадоў ВКЛ. У Вільні ў 1760 пачала выходзіць Г. *«Кур'ер Літэвскі»* з дадаткамі «Wiadomości literackie» («Літаратурныя весці»), «Wiadomości cudzoziemskie» («Чужаземныя весці») і «Supplement do Gazet Wileńskich» («Дадатак да віленскай газеты»). У 1764 замест яе выходзіла *«Газэты Віленьске»*, выданне якой спынілася з пачаткам паўстання 1794. Выданнем віленскіх газет кіравалі езуіты. Паўстанцкія ўлады выдавалі *«Газэту Народову Віленьску»*. У 1776—83? у Гародні выдавалася прыватная *«Газэта Гродзеньска»*, а ў 1792 орган Таргавіцкай канфедэрацыі *«Вядомосьці Гродзеньске»*.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Газэта Гродзеньска»** («Gazeta Grodzieńska», «Гарадзенская газета»), неафіцыйнае перыядычнае выданне. Выходзіла ў Гародні на польскай мове штотыднёва ў 1776—83(?). Друкавалася ў *Гарадзенскай друкарні*. Яе выдаваў, відаць, сакратар мясц. пошты Сабалеўскі. Да сярэдзіны 1776 выйшла 6 нумароў, якія трапілі да караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і выклікалі яго крытыку з-за дапушчаных памылак, а таксама меркаванняў, якія разыходзіліся з палітыкай двара. У чэрв. 1776 надрукаваны № 1 пад змененай назвай «Gazeta Grodzieńska partykularna» («Мясцовая гарадзенская газета»). У ліп. 1776 выходзіла пад назвай «Wiadomości partykularne warszawskie» («Мясцовыя варшаўскія паведамленні»). Відаць, з восені 1776 зноў мела назву «Г. г.». Падскарбі надворны ВКЛ А.Тызенгаўз устанавіў над газетай сталую цэнзуру. Змяшчала паведамленні пра паліт. падзеі ў краіне і за мяжой (у асноўным перадрукоўвала іх з газ. «Gazeta Warszawska»), зрэдку аб'явы. Выходзіла па чацвяргах. Звычайна мела 2 старонкі, памер каля 20 × 15 см, тэкст размяшчаўся ў 2 слупкі. Апошні вядомы нумар датаваны 28.12.1780. Выдавалася, магчыма, да канца 1783.

*Літ.*: Łojek J. «Gazeta Grodzieńska» 1776—1783 // Rocznik historii czasopiśmiennictwa polskiego. Wrocław etc., 1966. T. 5, z. 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Газэта Гродзеньска»**. № 1, 1776; № 35, 1778.

**«Газэта Народова Віленьска»** («Gazeta Narodowa Wileńska», «Віленская нацыянальная газета»), орган *Найвышэйшай Літоўскай рады* — рэвалюцыйнага ўрада ў ВКЛ у час *паўстання 1794*. Выходзіла ў Вільні на польскай мове 2 разы на тыдзень з 4.5 да 6.8.1794. Рэдактар — праф. Гал. школы ВКЛ П.Н.*Галянскі* пры ўдзеле праф. М.Ф.*Карповіча*.



GAZETY WILENSKIE

W SOBOTĘ DNIA 19. KWIETNIA ROKU 1766.

Z LITWY

Z POLSKI

**«Газэты Віленьске»**. № 16, 1766.

Фармат 22 × 34 см, мела 6 старонак, тэкст размяшчаўся ў 2 слупкі. Друкавалася ў базыльянскай друкарні. Змяшчала распараджэнні паўстанцкіх органаў улады, адозвы, паведамленні пра ход паўстання. Выйшла 28 нумароў.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Газэты Віленьске»** («Gazety Wileńskie», «Віленская газета»), грамадска-палітычнае перыядычнае выданне. Выходзіла ў Вільні на польскай мове штотыднёва ў 1764—94. Выдавалі і друкавалі езуіты. Рэдактары А.Янушкевіч (1764—66), К.А.Нарушэвіч (1766—73), М.Пачобут-Адляніцкі (пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 выдаваў газету як прыватную). Друкавала паведамленні пра падзеі ў краіне і за граніцай, урадавую хроніку, весці з соймаў, эканам. і культ. навіны, астранамічную і метэаралагічную інфармацыю, аб'явы. Выданне газеты спынілася з пачаткам паўстання 1794.

***Валерый Пазднякоў.***

**гайдамакі** (ад тур. haydamak), удзельнікі антыфеадальных выступленняў на Украіне ў 18 ст. Гайдамацкі рух меў характар стыхійных разрозненых выступленняў узбр. атрадаў (ад некалькіх чалавек да тысячы), якія выкарыстоўвалі партызанскую тактыку. Атрады Г. складаліся пераважна з запарожскай казацкай беднаты (галоты), сялян, батракоў, у т.л. з бел. зямель; былі сярод іх выхадцы з мяшчанства і шляхты. Кіруючую ролю ў гайдамацкім руху адыгрывалі запарожцы, з якіх найчасцей былі кіраўнікі атрадаў (атаманы, ватажкі). Г. нападалі на панскія маёнткі, касцёлы, цэрквы, захоплівалі іх маёмасць, палілі дакументы, нападалі на яўрэяў — арандатараў, карчмароў, ліхвяроў. Выступленні Г. пачаліся ў 1710-х г. на Валыні і Зах. Падоллі, пасля распаўсюдзіліся на тэр. Правабярэжнай, Левабярэжнай і Слабадской Украіны. З 1740-х г. атрады Г. нападалі на шляхецкія маёнткі на тэр. паўд. Беларусі. У 1745 Г. з'явіліся каля Горваля, у 1746 спустошылі Стрэшын, у 1747 дзейнічалі ў Гомельскім старастве. У 1750—51 атрады Г. і мясц. узброеных сялян выкарыстоўвалі паны Халецкія ў барацьбе супраць А.Радзівіла за валоданне маёнткамі Хальч і Жлобін. У 1750 Г. разграмілі Кімбараўскія цэстэрцыянскія кляштары каля Мазыра, спустошылі маёнткі Пінскага езуіцкага калегіума, шляхецкія ўладанні каля Лоева, Брагіна, Петрыкава. Да канца 1750 асн. ачагі гайдамацкіх выступленняў на Украіне і Беларусі задушаны войскамі Рэчы Паспалітай і Расіі. У 1751 гайдамацкі рух аднавіўся. Г. разграмілі Нароўлю, палілі шляхецкія маёнткі, у 1752 яны дзейнічалі каля Лоева, у Прапойскім старастве. Пад іх уздзеяннем адбылося *Камянецкае паўстанне 1754—56*. Для барацьбы з Г. ў Мазырскі і Рэчыцкі паветы было сцягнута каля палавіны ўсёй кавалерыі ВКЛ. У 1768 на Правабярэжнай Украіне пачалося найбуйнейшае гайдамацкае паўстанне, т.зв. Каліяўшчына. Г. зноў дзейнічалі ў паўд. раёнах Беларусі, даходзілі да Смаленска. Да канца 18 ст. польскія і рас. войскі падавілі гайдамацкія выступленні на Украіне. Гэтаму садзейнічала паражэнне Сялянскай вайны 1773—75 у Расіі і ліквідацыя Запарожскай Сечы ў 1775.

*Літ.*: Гуслистий К.Г. Коліївщина. Київ, 1947; Лола О.П. Гайдамацький рух на Україні 20—60 рр. XVIII ст. Київ, 1965; Гайдамацький рух на Україні в XVIII ст.: Зб. док. Київ, 1970; Serczyk W. Hajdamacy. Kraków, 1972; Игнатенко А.П. Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1974.

***Валерый Пазднякоў.***

**гайнае**, угайнае, грашовы падатак сялян на Беларусі ў 16—пач. 19 ст. Уносіўся за права карыстання ляснымі ўгоддзямі зямельных уласнікаў. Напр., сяляне фальварка Барсукі Менскага ваяв. ў 1788 сплачвалі Г. ў памеры 6 злотых з валокі, фальварка Цалевічы Навагародскага ваяв. ў 1792 — 4 злотыя з валокі.

*Літ.*: Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991. С. 72.

**Гайцюнішскі дом-замак**, помнік грамадзянскага будаўніцтва пач. 17 ст. Узведзены ў 1611—12 на паўд. ускраіне в. Гайцюнішкі (цяпер у Воранаўскім р-не) на левым беразе р. Жыжма. Пабудаваны з цэглы па ўласным праекце яго



**Гайцюнішскі дом-замак**.



ўладальніка, будаўніка і начальніка каралеўскіх збудаванняў у Вільні П.Нонхартам сумесна з інжынерам-фартыфікатарам Ван Дадэнам. Пабудову абкружалі абарончыя збудаванні бастыённага тыпу і роў, запоўнены вадой. Будынак прамавугольны ў плане, 2-павярховы, пад высокім вальмавым дахам. Па цэнтры гал. фасада размешчана 3-павярховая прамавугольная ў плане вежа; пазней да яе прыбудаваны ганак у выглядзе невысокага кубічнага аб'ёму з арачнымі праёмамі і тэрасай наверсе. Па вуглах будынка размешчаны цыліндрычныя вежы з шатровымі завяршэннямі і вузкімі вокнамі-байніцамі.

У 1986 помнік даследавала арх.-археалагічная экспедыцыя Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытв. Майстэрняў. Устаноўлена, што падмуркі надуваходнай і вуглавых вежаў не заглыблены ў мацерыковы грунт. Падмурак асн. будынка дастаткова глыбокі. Гэта звязана з наяўнасцю падвалаў, перакрытых цаглянымі скляпеннямі, і высокім узроўнем грунтавых вод, што паўплывала на выкарыстанне ў муроўцы і пры будаўніцтве падпорных слупоў у падвалах толькі камянёў, замацаваных вапнавай рошчынай. Падмуркі ў аснове прыблізна на 1 м шырэйшыя за цагляныя сцены будынка, што таксама звязана з балоцістым характарам мясцовасці. У будаўніцтве выкарыстоўвалася цэгла-пальчатка памерам 29,3 × 15 × 6—7 см. Камяні падмуркаў маюць у папярочніку 20—30 см, закладзеныя бліжэй да асновы — каля 50 см. У шурфе, закладзеным на сярэдзіне тыльнага фасада будынка, знойдзены рэшткі муроўкі з камянёў і цэглы на вапнавай рошчыне. Таўшчыня цаглін (5—5,5 см) і выяўленыя фрагменты кафляў даюць падставы меркаваць, што прыбудова да замка была зроблена ў 2-й пал.—канцы 17 ст. Знойдзены фрагменты пляскатых даховак таўшчыней 1,5 см, якімі накрывалі будынак. Дом — узор пабудовы загараднай рэзідэнцыі ў выглядзе мініяцюрнага замка.

*Літ.*: Я к і м о в і ч Ю. Новае пра Гайцюнішскі дом-крэпасць // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1986. № 3.

*Ігар Чарняўскі.*

**гакаўніца**, ручная агнястрэльная зброя. У ВКЛ у 15—1-й пал. 16 ст. адзін з найб. распаўсюджаных тыпаў агнястрэльнай зброі, якая выкарыстоўвалася для абароны фартэцый, а таксама ў адкрытым баі. Вялікія Г. па памерах набліжаліся да гармат. Раннія экзэмпляры адліваліся з бронзы ці каваліся з жалеза. Для больш зручнага ўтрымання ў руках мацаваліся пры дапамозе ўтулкі ці дзяржання на драўлянай жэрдцы, як кап'ё, або на простай драўлянай ложы. Порах запальвалі пры дапамозе кнота праз адтуліну ў ствале. У 16 ст. маглі забяспечвацца колавым замком. Для змяншэння аддачы мелі знізу спец. крук (гак), які чапляўся за выступ муру ці інш. падпорку. Мадыфікацыяй вял. Г. былі козы, для якіх патрабаваліся спец. падпоркі — козлы («казліныя ногі»). Укарочаныя Г. называліся паўгакаўніцамі, пулгакамі.

*Літ.*: Б о х а н Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002. С. 196—200.

*Юрась Бохан.*

**Галаўні-Астрожацкія**, княжацкі род. Паходжанне не высветлена. Вядомы з пач. 15 ст. ў Луцкім пав., дзе князь Дзмітрый валодаў маёнткам Астрожац (адсюль прозвішча) і інш. Меў сына Івана і ўнука Глеба, якім пацвердзіў валоданне маёнткамі ў 1446 вял. князь Свідрыгайла. Найб. вядомыя:

П ё т р М і х а й л а в і ч (мянушка Галаўня, з 1535 тытулаваўся князем Астрожацкім; ?—пасля лют. 1538), унук Івана Дзмітрыевіча. Каралеўскі дваранін у 1496—1522, гараднічы троцкі ў 1523—33. Валодаў маёнткамі на Валыні, сёламі Ражанцы і Рыдчы ў Берасцейскім пав. У 1528 атрымаў прывілей на заснаванне горада ў Астрожцу. У 1528 выстаўляў у войска 16 коннікаў.

Ф ё д а р П я т р о в і ч (?—1569), сын Пятра Міхайлавіча. Спраўца Брацлаўскага і Вінніцкага старостваў у 1559, у 1569 прызначаны канюшым ВКЛ, але пасады не заняў.

А н д р э й Ф ё д а р а в і ч (?—1585), сын Фёдара Пятровіча. Пасол на сойм 1573. Апошні з роду Г.-А. Валодаў шматлікімі маёнткамі на Валыні, якія пасля яго смерці перайшлі ў роды Еляў-Малінскіх, Пацеяў, Тушэвіцкіх.

У ВКЛ быў вядомы шляхецкі род Галаўнёў, адна лінія якога пасля згасання роду Г.-А. прыняла іх прозвішча; у 17 ст. яны жылі ў Берасцейскім ваяв.

*Валерый Пазднякоў.*

**Галенчанка** Георгій Якаўлевіч (н. 28.2.1937, г. Петразаводск, Карэлія), беларускі гісторык-медыявіст, кнігазнавец. Д-р гіст. навук (2001). Скончыў БДУ (1960). З 1965 ст. выкладчык БДУ, з 1968 ст. навук. супрацоўнік, з 1991 заг. аддзела спец. гіст. навук Ін-та гісторыі Нац. АН Беларусі. Даследуе пытанні крыніцазнаўства, гістарыяграфію і крыніцазнаўства эпохі феадалізму, гісторыка-культурныя працэсы, гісторыю царк.-рэліг. і этнічных адносін, кнігадрукавання на Беларусі ў 16—18 ст., гістарыяграфію скарыназнаўства. Адзін з аўтараў кн. «Францыск Скарына» (з В.А.Чамярыцкім, В.Ф.Шматавым, 1979, на франц. мове; 1980, на англ. мове). Адзін са складальнікаў (з Т.В.Непарожнай, Т.К.Радзевіч) зводнага каталога «Кніга Беларусі» (1986). Навук. кансультант факсімільнага 3-томнага выдання Бібліі Ф.Скарыны (1990—91). Дзярж. прэмія Беларусі 1994 за ўдзел у стварэнні цыкла прац «Скарына і беларуская культура».

*Тв.*: Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI —середине XVII в. Мн., 1989; Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар. Мн., 1993; Описи библиотек и книжных собраний Радзивиллов в Национальном архиве Беларуси // Badania księgozbiorów Radziwiłłów. Warszawa, 1995; «Шляхетская демократия» в Великом княжестве Литовском // Белоруссия и Россия: общества и государства. М., 1997; Развіццё шляхецкай дэмакратыі ў Вялікім княстве Літоўскім у XVI—XVIII ст. // Герольд Litherland. 2001. № 1—2; Францыск Скарына: Спадчына і пераемнікі. Анатаваны бібліяграф. паказальнік. Мн., 2002.

**Галецкі** (Х а л е ц к і, Halecki, Chalecki) Оскар (26.5.1891, г. Вена—17.9.1973), польскі гісторык. Чл. Польскай АН у Кракаве (1936), д-р габілітаваны (1916), праф. звычайны (1919). Сын аўстрыйскага фельдмаршала. Вучыўся ў Кракаўскім (1909—14) і Венскім (1914—15) ун-тах. У 1915—18 выкладаў у Кракаўскім, у 1918—39 праф. кафедры гісторыі Усх. Еўропы Варшаўскага ун-та, дэкан яго філасофскага (1920—21) і гуманітарнага (1930—31) факультэтаў. Эксперт польскай дэлегацыі на Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919—20, дзе выступаў за далучэнне да Польшчы літ., бел. і ўкр. зямель. У 1921—24 працаваў у Сакратарыяце Лігі Нацый у Жэневе. У 1930—39 старшыня Польскага геральдычнага т-ва, гал. рэдактар яго час. «Miesięcznik heraldyczny» («Геральдычны штомесячнік»). З 1939 у Швейцарыі, пасля ў Парыжы, дзе арганізаваў Польскі ун-т, з 1940 у ЗША. Арганізаваў Польскі ін-т навукі і мастацтва імя Ю.Пілсудскага ў



Нью-Йорку (у 1942—62 яго кіраўнік). У 1944—61 узначальваў кафедру гісторыі Усх. Еўропы ва ун-це ў Фордхаме, выкладаў таксама ва ун-тах Нью-Йорка, Манрэаля, Лос-Анджэлеса, Берклі, Рыма. Даследаваў гісторыю і культуру Польшчы і ВКЛ 14—16 ст., развіццё шляхецкага стану і парламентарызму ў ВКЛ, уніі ВКЛ і Польшчы, Фларэнційскую і Берасцейскую царкоўныя уніі. Аўтар прац пра Візантыйскую імперыю і яе ўплыў на Усх. Еўропу. Падкрэсліваў ролю каталіцтва і касцёла ў гісторыі Польшчы, якую разглядаў як фарпост зах. культуры ва Усх. Еўропе. Распрацаваў тэорыю гіст. правоў Польшчы на землі Літвы, Беларусі і Украіны, цывілізацыйную перыядызацыю гісторыі Польшчы і Еўропы.

*Тв.*: Sejm obozowy szlachty litewskiej pod Witebskiem 1562 r. i jego petycya o unię z Polską // Przegląd historyczny. 1914. Z. 3; O początkach szlachty i heraldyki na Litwie. Lwów, 1915; Przyłączenie Podlasia, Wołynia i Kijowszczyzny do Korony w roku 1569. Kraków, 1915; Ostatnie lata Świdrygiełły i sprawa wołyńska za Kazimierza Jagiellończyka. Kraków, 1915; Zgoda sandomierska 1570 r.: Jej geneza i znaczenie w dziejach reformacyi polskiej za Zygmunta Augusta. Warszawa; Kraków, 1915; Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego Księstwa Litewskiego. Kraków, 1917; Dzieje unii jagiellońskiej. T. 1—2. Kraków, 1919—20; Un empereur de Byzance á Rome: Vingt ans de travail pour l'union des Eglises et pour la défense de l'Empire l'Orient, 1355—1377. Warszawa, 1930; Histoire de Pologne. Montreal, 1945; The limits and divisions of european history. London; New York, 1950; Borderlands of western civilizacion. New York, 1952; Imperialism in slavic and east european history. New York, 1952; Historia Polski. Londyn, 1958 (2 wyd. Lublin; Londyn, 1992); From Florence to Brest (1439—1596). Hamden, 1968; Jadwiga of Anjou and the rise of East Central Europe. New York, 1991; польск. пер. — Od unii florenckiej do unii brzeskiej. T. 1—2. Lublin, 1997.

*Літ.*: Księga ku czci Oskara Haleckiego w 25-lecie jego pracy naukowej. Warszawa, 1935 (змешчана бібліяграфія прац Г.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Галіцка-Валынскае княства**, феадальная дзяржава ва Усходняй Еўропе. Утварылася ў 1199 у выніку аб'яднання кн. Раманам Мсціславічам Галіцкага і Уладзіміра-Валынскага княстваў. Размяшчалася ў басейнах Днястра, Прута, Сірэта, вярхоўях Сана, Зах. Буга, Нарава, Прыпяці, Стыра, Гарыні. Гал. гарады — Галіч, Уладзімір, Львоў, Перамышль, Белз, Чэрвен, Холм, Луцк, Крэменец, Берасце, Кобрынь, Камянец, Мельнік, Дарагічын. Галіцка-валынскія князі падтрымлівалі шырокія міжнар. сувязі, заключалі дынастычныя шлюбы з дварамі Польшчы, Венгрыі, Візантыі. Стваральнік Г.-В.к. Раман Мсціславіч ваяваў з Літвой і яцвягамі. Пасля яго смерці княства распалася, сыны Рамана Даніла і Васілька апынуліся ў Польшчы. У 1238 Даніла Раманавіч аднавіў Г.-В.к. пад сваёй уладай, пасля захапіў Кіеў. Вярхоўную ўладу брата прызнаваў Васілька, які валодаў Валынню. Пасля Даніла і Васілька прызналі ўладу мангольскіх ханаў. Варожыя ў 12 ст. адносіны галіцкіх і валынскіх князёў з Літвой сталі мірнымі пасля заключэння *дагавора 1219*. Літ. князі сталі саюзнікамі галіцка-валынскіх у барацьбе з Польшчай. У 1238 Даніла «навёў» Літву Міндоўга на мазавецкага кн. Конрада. У пач. 1240-х г. іншыя літ. князі пачалі нападаць на Г.-В.к. У 1243/44 літ. князь Айшэўна Рушкавіч ваяваў каля Перасопніцы на Валыні і быў разбіты Данілам і Васількам каля Пінска. Літ. напад у 1244/45 на валынскія гарады Мельніца і Лякоўня зноў скончыўся паражэннем каля Пінска. Міндоўг заставаўся верным мірнаму дагавору і ў 1245 аказаў узброеную дапамогу Данілу і Васільку. У 1248 Даніла ажаніўся з пляменніцай Міндоўга, сястрой князёў Таўцівіла і Эдзівіда. Калі апошніх Міндоўг выгнаў з Літвы, то яны знайшлі прытулак у Г.-В.к. Даніла і Васілька стварылі кааліцыю з Лівонскім ордэнам, яцвяжскімі і жамойцкімі князямі, якая ў 1249/50 зрабіла вял. паход на падуладныя Міндоўгу землі, у т.л. на Навагародак, Ваўкавыск, Слонім і Здзітаў. У 1250 адбыўся новы паход: Таўцівіл з валынскім і палавецкім войскамі наносіў удар з Пд, а лівонскія рыцары — з Пн. У 1251/52 Даніла і Васілька з полаўцамі зноў напалі на Навагародак. У 1252 браты захапілі ў ліцвінаў Гародню, ваявалі інш. землі. У адказ сын Міндоўга Войшалк ваяваў каля Турыйска. Пасля пачаліся мірныя перагаворы. У 1254/55 быў заключаны шлюб паміж сынам Данілы Шварнам і дачкою Міндоўга. Іншы сын Данілы, Раман, атрымаў ад Міндоўга і Войшалка як знак іх залежнасці Навагародак, Слонім і Ваўкавыск. Мір паміж галіцка-валынскімі і літ. князямі быў парушаны ў выніку дзеянняў манголаў (яшчэ ў 1254, каб садзейнічаць стварэнню кааліцыі супраць манголаў, Даніла Раманавіч прыняў ад рымскага папы каралеўскую карону і каранаваўся ёю ў Дарагічыне). У 1258 мангольскі военачальнік Бурундай прымусіў Данілу далучыцца да паходу на літ. землі. У адказ Войшалк і Таўцівіл адваявалі Навагародак і паланілі Рамана Данілавіча. У 1262 у адказ на паход на Панямонне валынскіх войск Васількі Міндоўг ваяваў у ваколіцах Каменя. У той жа час Шварн захоўваў прыязныя адносіны з Міндоўгам і дапамагаў яму ў паходзе на Мазовію. Пасля смерці Данілы Раманавіча (1264) Шварн Данілавіч валодаў усх. Галіччынай і Забужжам з гарадамі Белз, Чэрвень, Холм, Мельнік, Дарагічын, Леў Данілавіч — зах. Галіччынай, Мсціслаў Данілавіч — Луцкам, а потым усёй Валынню (пасля смерці Уладзіміра Васількавіча). У 1264 Шварн і Васілька дапамаглі Войшалку захапіць літ. трон і заваяваць Нальшчаны. Войшалк прызнаў сябе васалам Васількі. Да 1267 Войшалк княжыў фактычна разам са Шварнам, а пасля перадаў яму трон ВКЛ. Пасля смерці Войшалка і Шварна (каля 1269) у ВКЛ да ўлады прыйшоў Трайдзень, які спачатку падтрымліваў мір са Львом Данілавічам, але канфліктаваў з Уладзімірам Васількавічам. У 1275 пасланае Трайдзенем гарадзенскае войска захапіла ў Льва Данілавіча Дарагічын. У канфлікт была ўцягнута Арда, якая па просьбе Льва арганізавала буйны паход на ВКЛ рус. князёў, у т.л. пінскага і тураўскага. Аднак паход скончыўся ўзяццем толькі вакольнага горада Навагародка. У 1276 галіцка-валынскія войскі ўзялі Слонім і Турыйск. Брат Трайдзеня Сірпуцій пустошыў ваколіцы Камянца. Хаця ў 1276/77 бакі прымірыліся, у 1277 па ініцыятыве Арды быў зроблены яшчэ адзін паход на Навагародак і Гародню. У 1289 правіцелі ВКЛ Бурдзікід і Будзівід аддалі валынскаму князю Мсціславу Данілавічу Ваўкавыск, каб захаваць з ім мір і ўмацаваць свае тылы ў барацьбе з крыжакамі.

Пасля гэтага летапісныя звесткі пра адносіны Г.-В.к. і ВКЛ адсутнічаюць. Відаць, Мсціслаў Данілавіч, чые ўладанні межавалі з ВКЛ, захоўваў з літ. князямі ў асноўным мірныя адносіны. Ён памёр каля 1301. Пасля на Валыні княжыў Юрый Львовіч, які тытулаваўся каралём рускім і князем уладзімірскім. Пад яго ўладай Г.-В.к. зноў стала адзіным, каля 1303—04 створана *Галіцкая праваслаўная мітраполія*. Пасля яго смерці ў 1308 Г.-В.к. было ў валоданні яго сыноў Льва і Андрэя. 21.5.1323 польскі кароль Ула-

# ГАЛІЦКА-ВАЛЫНСКАЕ КНЯСТВА ў першай палове XIII ст.

**Гістарычныя рэгіёны Галіцка-Валынскага княства**

Валынь
- Белзская зямля
- Берасцейская зямля
- Уладзімірская зямля
- Луцкая зямля з Пагарынню
- Холмская зямля
- Чэрвеньская зямля

Галічына
- Галіцкая зямля
- Звянігарадская зямля
- Перамышльская зямля
- Цэрабоўльская зямля
- Болахаўская зямля

- Сталіцы княстваў
- Цэнтры ўдзельных княстваў, зямель
- Іншыя гарады і населеныя пункты
- Гарады, захопленыя кн. Лешкам каля 1214
- Гарады, захопленыя манголамі ў 1240-1241
- Гарады, якія ня здолелі захапіць войскі хана Батыя ў 1241
- ГАЛІЧ — Гарады (з тэрыторыямі), якія апынуліся пад уладай галіцкіх і валынскіх баяр пасля мангольскага нашэсця
- *Кудзін* — Болахаўскія гарадкі, знішчаныя Данілам Раманавічам у 1241, 1252
- Гарады, абарончыя збудаванні якіх загадаў знішчыць цемнік Бурундай у 1259
- ЗАЛАТАЯ АРДА — Дзяржавы
- *ПАНІЗЗЕ* — Гісторыка-геаграфічныя вобласці
- *валохі* — Народы, этнічныя групы

Граніцы
- дзяржаў у пачатку XIII ст.
- зямель, удзелаў і далучаных тэрыторый
- дзяржавы Рамана Мсціславіча ў 1205
- Галіцка-Валынскага княства ў 1264 (год смерці Данілы Раманавіча)
- Літоўскага княства ў 1263 (год смерці Міндоўга)

ТЭЎТОНСКІ ОРДЭН · ЛІТОЎСКАЕ КНЯСТВА · МЕНСКАЕ КНЯСТВА · ЧАРНІГАЎСКАЕ КНЯСТВА · ТУРАВА-ПІНСКАЕ КНЯСТВА · КІЕЎСКАЕ КНЯСТВА · МАЗАВЕЦКАЕ КНЯСТВА · САНДАМІРСКАЕ КНЯСТВА · КРАКАЎСКАЕ КНЯСТВА · КАРАЛЕЎСТВА ВЕНГРЫЯ · БОЛАХАЎСКАЯ ЗЯМЛЯ · ПАНІЗЗЕ · ПАРОССЕ · ЗАЛАТАЯ АРДА · арда Курэмсы (з 1254 па 1259) · ХЕЛМІНСКАЯ ЗЯМЛЯ 1228 · ДАБЖЫНСКАЯ ЗЯМЛЯ · ЛЕНЧЫЦКАЯ ЗЯМЛЯ · ПАДГОРЭ · ТРАНСІЛЬВАНІЯ · ЗЯМЛЯ БЫРСА · ЗАГОРСКАЯ ЗЯМЛЯ · БАЛГАРСКАЕ ЦАРСТВА · ЧОРНАЕ МОРА

Менеск · Гарадна · Новагародак · Ваўкавыеск · Берасце · Дарагічын · Пінеск · Тураў · Кіеў · Холм · Уладзімір · Луцк · Белз · Чэрвень · Перамышль · Звянігарад · Галіч · Цэрабоўль · Львоў · Камянец · Сандамір · Кракаў · Плоцк

Аўтар В.М.Цемушаў

МАШТАБ 1:5 000 000




дзіслаў Лакаток паведаміў рымскаму папу пра смерць абодвух Юр'евічаў. Мяркуецца, што яна настала ў выніку нападу мангола-татараў. Мабыць, менавіта з дачкой Андрэя (яе імя было Буча, хрысціянскае Ганна) узяў шлюб сын Гедзіміна Любарт, які першы з літ. князёў замацаваўся на Валыні (відаць, спачатку толькі ў Луцку). Магчыма, шлюб адбыўся ў пач. 1320-х г. Смерць Андрэя і Льва Юр'евічаў выклікала прэтэнзіі на землі Г.-В.к. з боку ўладароў Польшчы і Венгрыі. Летам 1323 польская і венгерская саюзныя арміі ўвайшлі ў Г.-В.к. Польскі кароль Уладзіслаў Лакаток меў намер пасадзіць на галіцка-валынскі трон пры падтрымцы мясц. баярства аднаго з сыноў добжынскага кн. Земавіта і Настассі — дачкі Льва Данілавіча. Аднак летам 1324 кароль вырашыў дамагацца трона для Баляслава — сына мазавецкага кн. Трайдзеня і Марыі — дачкі Юрыя Львовіча. Гедзімін падтрымліваў Любарта ў барацьбе за галіцка-валынскія землі, таму двойчы ў 1324 ваяваў Мазовію. Відаць, восенню 1324 Баляслаў заняў уладзімірскі трон. Ён прыняў праваслаўе і імя Юрый. Гедзімін пайшоў на кампраміс з польскім каралём. Быў заключаны *дагавор 1325*, адбыўся дынастычны шлюб паміж дачкой Гедзіміна Альдонай і сынам Уладзіслава Лакатка Казімірам. Да ВКЛ адышла Берасцейская зямля з Падляшшам. Баляслаў за сваім зацвярджэннем звярнуўся да хана Узбека і пасля выплачваў даніну Ардзе. Магчыма, тады ж да Арды перайшлі землі Галіцкага Паніззя. У Г.-В.к. Баляслаў імкнуўся абаперціся на іншаземных каланістаў і супрацьпаставіць іх мясц. баярам, а каля 1328—30 зноў стаў каталікам. У 1331 быў заключаны шлюб паміж Баляславам і дачкой Гедзіміна Яўфіміяй (Офкай). У 1338 Баляслаў прызнаў сябе васалам венгерскага караля Карла Роберта і абвясціў польскага караля Казіміра III сваім спадкаемцам. 7.4.1340 Баляслаў быў атручаны баярамі, якія бачылі небяспеку ва ўмацаванні княжацкай улады, каталіцтве Баляслава і яго арыентацыі на Венгрыю і Польшчу. Княжыць у Г.-В.к. баяры запрасілі Любарта. Напады польскіх і венгерскіх войск і наступныя паліт. падзеі прывялі да знікнення Г.-В.к. Галіччына была захоплена Польшчай, а *Валынь* на доўгія гады стала аб'ектам польска-літ. спрэчак.

*Літ.*: Андрияшев А.М. Очерк истории Волынской земли до конца XIV столетия. Киев, 1887; Иванов П.А. Исторические судьбы Волынской земли с древнейших времен до конца XIV века. Одесса, 1895; Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. [М.], 1950; Włodarski B. Polska i Ruś, 1194—1340. Warszawa, 1966; Котляр М.Ф. Формирование территории и возникновение городов Галицко-Волынской Руси IX—XIII вв. Киев, 1985; Його ж. Галицько-Волинська Русь. Київ, 1998; Грушевський М.С. Історія України-Руси. [2 вид.]. Т. 2—3. Київ, 1992; Александров Д.Н. Галицко-Волынская земля в XIII—первой четверти XIV вв. М., 1997; Крип'якевич І. Галицько-Волинське князівство. 2 вид. Львів, 1999; Майоров А.В. Галицко-Волынская Русь:



Очерки соц.-полит. отношений в домонгольский период. Князь, бояре и городская община. СПб., 2001.

*Валерый Пазднякоў.*

**Галіцка-Валынскі летапіс**, помнік гістарыяграфіі, мовы і культуры Стараж. Русі. Уваходзіць у склад *Іпацьеўскага летапісу* канца 13 ст. Складзены ў *Галіцка-Валынскім княстве*, ахоплівае падзеі за 1201—92. Апошнія запісы датычаць гісторыі Пінскай зямлі. Відаць, пратограф вядомых спісаў гэтага летапісу ўзнік у Пінску. Першапачаткова быў напісаны ў прагматычнай форме, без пазначэння дат, як дакументальная гіст. аповесць. Пазней яго тэкст быў падзелены на асобныя пагадовыя артыкулы, але месцамі недакладна: даты некаторых падзей у летапісе храналагічна разыходзяцца на 2—3 і нават 5 гадоў. Паводле літ. структуры і зместу — звод, у якім вылучаюцца 2 асн. часткі: Галіцкі і Валынскі летапісы. 1-я частка нагадвае гіст. аповесць, мае выразна свецкі характар, вызначаецца цэльнасцю, жывасцю і дэталёвасцю выкладання, багаццем вобразна-выяўленчых сродкаў. У цэнтры яе ўвагі князь Даніла Галіцкі, які пададзены ярка, панегірычна і ў духу рыцарскіх ідэалаў. 2-я частка прысвечана пераважна гісторыі Валынскай зямлі 2-й пал. 13 ст., яна больш сціслая, фрагментарная, адметная рэлігійнай афарбоўкай падзей. Аўтары летапісу — высокаадукаваныя, дасведчаныя і таленавітыя кніжнікі, гарачыя патрыёты сваёй зямлі, прыхільнікі моцнай княжацкай улады. У творы шырока паказана грамадска-паліт. і культурнае жыццё Галіцка-Валынскага княства 13 ст., яго міжнар. сувязі, гераічная барацьба супраць мангола-татарскага нашэсця, польскіх і літоўскіх князёў. Летапіс — каштоўная крыніца звестак па гісторыі Беларусі. Змяшчае унікальныя звесткі пра Навагародак, Берасце, інш. гарады, пра асобныя помнікі бел. культуры (заснаванне Лаўрышаўскага манастыра, будаўніцтва Камянецкай вежы), пра жыццё і дзейнасць вял. князёў ВКЛ *Міндоўга, Войшалка, Трайдзеня*, звесткі пра якіх, як мяркуюць некат. даследчыкі, запазычаны з Новагародскага летапісу. Г.-В. л. — адзіны помнік, у якім даволі шырока асветлены пачатковы этап паліт. аб'яднання бел.-літ. зямель у адзіную дзяржаву, працэс утварэння ВКЛ, паказана складанасць гэтага прагрэсіўнага гіст. працэсу. Падзеі ў летапісе пададзены з пункту погляду інтарэсаў галіцка-валынскіх князёў, месцамі тэндэнцыйна, але звесткі ў цэлым адпавядаюць гіст. сапраўднасці. Летапіс быў шырока вядомы на бел. землях, паслужыў крыніцай і ўзорам для бел.-літ. хронік 16 ст. Асобныя яго сюжэты выкарыстаў аўтар «*Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага*», звесткі пра Міндоўга і Войшалка былі перакладзены на старабел. мову і ўключаны ў *Хроніку Быхаўца*. Гэты летапіс садзейнічаў таксама пераадоленню традыцыйнай пагадовай формы выкладання падзей у бел.-літ. агульнадзярж. летапісанні і станоўча паўплываў на развіццё бел. гіст. прозы і гістарыяграфіі позняга сярэдневякоўя і эпохі Адраджэння.

*Публ.*: Полное собрание русских летописей. Т. 2. Ипатьевская летопись. М., 1962.

*Літ.*: Грушевський М. Хронольогія подій Галицько-Волинськоі літописи // Зап. Наук. Т-ва ім. Шевченка. 1901. Т. 41; Генсьорський А.І. Галицько-Волинський літопис: (Процес складання; редакції і редактори). Київ, 1958; Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**Галіцкая праваслаўная мітраполія**, адм.-тэр. адзінка праваслаўнай царквы. Створана прыкладна ў 1303—04 канстанцінопальскім патрыярхам Афанасіем I і візантыйскім імператарам Андронікам II Палеалогам Старэйшым па ініцыятыве галіцка-валынскага князя Юрыя Львовіча. Была ў спісах 81-й (або 82-й) мітраполіяй. Кафедра мітрапалітаў знаходзілася ў Галіцкім Успенскім саборы. Мітраполія ахоплівала Галіцкую, Луцкую, Перамышльскую, Тураўскую, Уладзімірскую і Холмскую епархіі. Была зачынена да 1326, калі яе епархіі падпарадкоўваліся ўжо мітрапаліту кіеўскаму і ўсяе Русі Пятру. Адноўлена паміж 1341—47 па ініцыятыве кн. Любарта. У 1347 канстанцінопальскі патрыярх Ісідор I і візантыйскі імператар Іаан VI Кантакузін далучылі Г.п.м. да *Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі*. Па ініцыятыве польскага караля Казіміра III Г.п.м. адноўлена ў 1371 у складзе Галіцкай, Перамышльскай, Тураўскай, Уладзімірскай і Холмскай епархій (Тураўская хутка выведзена з яе складу). У канцы 1390-х г. мітрапаліт кіеўскі Кіпрыян дамогся фактычнага скасавання Г.п.м. і распаўсюдзіў сваю ўладу на яе епархіі. Тытул галіцкіх мітрапалітаў перайшоў да мітрапалітаў кіеўскіх і ўсяе Русі. Фармальна мітраполію (ужо як уніяцкую) скасаваў рымскі папа ў 1458.

Мітрапаліты галіцкія: Ніфант (1303—да 1305), Пётр (?—1308, пасля мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі), Гаўрыіл (?—?), Феадор (?—1347), Антоній (1371—каля 1391).

*Літ.*: Павлов А.С. О начале Галицкой и Литовской митрополий и о первых тамошних митрополитах по византийским документальным источникам XIV века // Русское обозрение. 1894. № 5; Тихомиров Н.Д. Галицкая митрополия: Церковно-историческое исследование. СПб., 1895.

*Валерый Пазднякоў.*

**Галіцкая рымска-каталіцкая мітраполія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Існавала ў Польскім каралеўстве і ВКЛ у 1367—1412. Створана рымскім папам Урбанам V па просьбе польскага караля Казіміра III. Акрамя Галіча ахоплівала Перамышльскую, Уладзімірскую, Холмскую (усе з 1375), Камянецкую (з 1379—84), Львоўскую (з 1390) і Кіеўскую (прыкладна з 1405) епархіі. Кафедра знаходзілася ў Галічы ў касцёле Найсвяцейшай Дзевы Марыі (раней правасл. царква Панцеляймона), у 1412 перанесена ў Львоў (гл. *Львоўская рымска-каталіцкая мітраполія*).

Мітрапаліты галіцкія: Крысціян (1367—72), Мацей (1375—80), Бярнард (1385—90), Якуб Стрэмя (1391—1409), Мікалай Труба (1410—12), Ян Жэшаўскі (1412—14).

*Літ.*: Trajdos T.M. Kościoł katolicki na ziemiach ruskich Korony i Litwy za panowania Władysława II Jagiełły (1386—1434). T. 1. Wrocław, 1983.

*Валерый Пазднякоў.*

**Галота** Ілья (?—чэрв. 1649), адзін з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў у час *антыфеадальнай вайны 1648—51* на Украіне і Беларусі; палкоўнік Запарожскага Войска. Вясной 1649 Б.Хмяльніцкі накіраваў Г. з 10-тысячным атрадам на Беларусь, на дапамогу паўстанцам. Рухаючыся на чаўнах уверх па цячэнні Прыпяці, казакі грамілі і рабавалі шляхецкія маёнткі, мелі некалькі перамог у баях з харугвамі войска ВКЛ, якімі камандаваў *Я.Радзівіл*. З'яўленне казакоў садзейнічала разгортванню паўстання на Беларусі. Паўстанцы з Гомеля і інш. населеных пунктаў далучаліся да войска Г. 17.6.1649 каля мяст. Загалле (цяпер Хойніцкі р-н) Г. з 3-тысячным (паводле інш. звестак — 7-тысячным) атрадам



уступіў у бітву з войскам ВКЛ. Конніца ротмістра Сасноўскага вымусіла казакоў адступіць да балотаў, і ў выніку працяглага бою амаль усе паўстанцы разам з Г. загінулі. Толькі нязначная колькасць казакоў змагла выратавацца ноччу і вярнуцца на Украіну.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła. Wilno; Witebsk, 1859; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 2. Мн., 1960; Документы об освободительной войне украинского народа, 1648—1654 гг. Киев, 1965; Мыцык Ю. Палкоўнік Ілля Галота і Загальская бітва 1649 г. у святле новых дакументаў // Спадчына. 2002. № 5—6.

***Васіль Мялешка.***

**Галоўка** Казімір Алойзы (3.3.1718, Пінскі пав.—пасля 1783), географ, педагог. Магістр філасофіі і вольных мастацтваў. З шляхецкай сям'і. З 1731 езуіт. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах у Навагародку, Гародні, Вільні. З 1743 святар. Выкладаў граматыку, паэзію, рыторыку, філасофію, тэалогію маральную, геаграфію, гісторыю, матэматыку ў езуіцкіх навучальных установах у Вільні (1746/47, 1749—52), Варшаве (1747—49, 1752/53). У 1753—55 у Вільні выхавацель сыноў рэферэндара ВКЛ А.Т.Пшаздзецкага. У 1756/57 выкладаў геаграфію ў Навагародку, адначасова місіянер у Любчы, у 1757/58 выкладаў тэалогію маральную ў Вільні. З 1760 выкладаў у Пінску. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) звесткі пра Г. адсутнічаюць. Аўтар падручніка па геаграфіі «Compendium geographiae in versiculos dispositae» (Вільня, 1743), нарыса па геаграфіі Рэчы Паспалітай на лац. мове (каля 1748, не збярогся) і на польскай мове (перавыдаваўся 5 разоў з 1757 у дадатку да практычнай энцыклапедыі Я.К.Гаўра «Агульная эканоміка землеўласніка»), геаграфічных табліц і карт, у т.л. ВКЛ («Chartae geographicae Galliae, Germaniae, Majoris Poloniae et M. Duc. Lithuaniae», 1750, не захавалася). З 1747 на працягу 8 гадоў выдаваў на польскай мове «Гістарычныя календары», якія мелі асветніцкі характар. Аўтар кн. «Еўропа ў соймах» («Europa seymuiąca», Варшава, 1753) пра парламентарызм Рэчы Паспалітай і інш. еўрапейскіх краін.

***Валерый Пазднякоў.***

**Галоўная школа Вялікага княства Літоўскага**, гл. ў арт. *Віленская акадэмія*.

**галоўны з'езд Вялікага княства Літоўскага**, генеральны з'езд, надзвычайны агульнадзяржаўны саслоўна-прадстаўнічы орган. Збіраўся з 1572. Яго існаванне напачатку не было прадугледжана пісаным правам дзяржавы. Кампетэнцыя і парадак дзейнасці гал. з'езда вызначаліся нормамі шляхецкага звычаёвага права і паліт. рашэннямі, якія прымаліся ў кожным канкрэтным выпадку. Звычайна на гал. з'ездах прысутнічалі сенатары і ўпаўнаважаныя прадстаўнікі павятовых і ваяводскіх шляхецкіх карпарацый, часам прадстаўнікі духавенства і прывілеяваных гарадоў (у першую чаргу Вільні).

Адрозніваюць 3 тыпы гал. з'ездаў. Да 1-га адносяцца генеральныя з'езды ВКЛ, якія скліканіся сенатарамі ВКЛ у час бескаралеўя; да 2-га — генеральныя з'езды (канвакацыі, ад лац. convocatio з'езд, сход), якія скліканіся вял. князем літоўскім; да 3-га — з'езды, ініцыятарамі склікання якіх у час панавання манарха былі прадстаўнікі шляхецкай супольнасці (пры гэтым не абавязкова сенатары). Розны і генезіс гэтых з'ездаў. Некат. даследчыкі няслушна называюць соймам ВКЛ Г.з.В.к.Л., які ўзнік насуперак пастановам Люблінскай уніі 1569. На думку А.Рахубы, канвакацыі былі рудыментам сойма ВКЛ хутчэй у ідэйным ці прапагандысцкім сэнсе, чым фармальна.

З'езды, якія прымалі ўхвалы ад імя станаў ВКЛ, пачалі збірацца ўжо ў час бескаралеўя пасля смерці вял. князя Жыгімонта Аўгуста (1572). Яны сапраўды ўзыходзілі да традыцыі соймаў ВКЛ. На іх паліт. эліта ВКЛ вырашала пытанні забеспячэння знешняй бяспекі дзяржавы, вызначала прынцыпы арганізацыі ўлады, акрэслівала пазіцыю ВКЛ у адносінах з Каронай Польскай і кандыдатамі на трон. У працы гэтых з'ездаў акрамя сенатараў і паслоў ад паветаў маглі браць удзел цэнтр. ураднікі ВКЛ і прадстаўнікі гарадоў і духавенства (у 17 ст. зафіксаваны ўдзел і дэпутатаў Трыбунала ВКЛ). Маглі адбывацца як агульныя, так і адасобленыя пасяджэнні рыцарскага і сенатарскага колаў. Часам на з'езды ў час бескаралеўя запрашаліся ўсе шляхціцы, якія мелі права ўдзельнічаць у элекцыйных соймах. Соймік Віленскага і Троцкага ваяводстваў, які адбыўся ў Рудніках у канцы вер. 1572 і на якім прысутнічалі шматлікія сенатары, быў, па сутнасці, першым нефармальным дзярж. з'ездам ВКЛ, які супярэчыў умовам Люблінскай уніі. У час першых бескаралеўяў гал. з'езд браў на сябе адказнасць за вырашэнне нават тых пытанняў, якія знаходзіліся выключна ў кампетэнцыі супольнага вальнага сойма (публічныя фінансы разам з ухваленнем падаткаў, абарона краіны, знешняя палітыка) ці манарха (прызначэнні на дзярж. пасады). Гал. з'езд, які адбыўся ў Вільні ў кастр.—ліст. 1574, ужо меў дакладна вызначанае прадстаўніцтва. На ім быў ухвалены «Парадак святой справядлівасці» — нарматыўны акт, які вызначаў парадак дзейнасці судоў ВКЛ да вяртання ў дзяржаву Генрыка Валезы ці да новай элекцыі. У адпаведнасці з рашэннямі, ухваленымі ў маі—чэрв. 1576 на дзярж. з'ездзе ВКЛ у Мсцібаве, вял. князем літоўскім быў прызнаны Стафан Баторый. У час бескаралеўя пасля смерці Стафана Баторыя Г.з.В.к.Л. збіраліся ў Вільні ў студз., кастр. і ліст. 1587. 29.1.1587 на дзярж. канвакацыйным з'ездзе ў Вільні ўпершыню прыняты нарматыўны прававы акт, які рэгламентаваў парадак арганізацыі і дзейнасці каптуровых судоў ВКЛ. На дзярж. з'ездзе ВКЛ, які адбыўся ў Вільні ў ліст. 1587, адбылася нефармальная элекцыя вял. князя.

Агульнадзярж. з'езды ВКЛ, якія адбыліся ў час бескаралеўяў пасля смерці Жыгімонта III і Уладзіслава IV, істотна адрозніваліся ад папярэдніх, бо стаўленне значнай часткі паліт. эліты ВКЛ да склікання асобных ад Кароны з'ездаў ВКЛ змянілася. У 1632 ініцыятарамі склікання гал. з'езда для забеспячэння бяспекі ВКЛ і яго арганізатарамі былі віленскі біскуп А.Война, гетман польны К.Радзівіл і маршалак Трыбунала ВКЛ М.Трызна; у 1648 — зноў Война разам з польным гетманам, старастам жамойцкім і маршалкам Трыбунала ВКЛ Я.Радзівілам, жамойцкім біскупам Е.Тышкевічам, троцкім ваяводам М.Абрамовічам і інш. Праціўнікамі склікання з'ездаў ВКЛ былі віленскі ваявода Л.Сапега (у 1632) і яго сын — падканцлер К.Л.Сапега (у 1648), якія даводзілі, што асобныя канвакацыі ВКЛ парушаюць умовы Люблінскай уніі і нормы Статута ВКЛ. Сапраўдная прычына пратэстаў Сапегаў, на думку Г.Віснера, хаваецца ў супярэчнасці інтарэсаў груповак Радзівілаў і Сапегаў, а таксама ў боязі ўзмацнення ў дзяржаве партыі Я.Радзівіла (пераважна пратэстантаў) у 1648. Пасля адрачэння ад трона Яна II Казіміра і пасля смерці Міхала Вішнявецкага паліт. эліта не збіралася на агульнадзярж. з'езды ВКЛ. 26.9.1707



абвешчана скліканне апошняга з'езда такога тыпу на пачатак снежня ў Навагародку, але ён ператварыўся ў канферэнцыю станаў ВКЛ.

Генезіс гал. з'ездаў, якія склікалі манархі, застаецца спрэчным. Яны або перанялі традыцыю вырашаць істотныя дзярж. пытанні ад з'ездаў часоў бескаралеўя, або заступалі пры неабходнасці гал. (генеральныя) соймікі ВКЛ. Бясспрэчна, што манарх спрабаваў іх выкарыстаць для дасягнення ўласных паліт. мэт. Першы гал. з'езд у час панавання манарха (прызнаецца даследчыкамі і першым генеральным соймікам ВКЛ, бо ў тагачасных дакументах ён выступае як «соймик валный» або «сойм Волковыйский») скліканы Стафанам Баторыем у 1577 у Ваўкавыску ў сітуацыі, калі Торунскі сойм разышоўся без ухвал, а вял. князь тэрмінова павінен быў знайсці сродкі на вядзенне вайны. Вальны сойм Рэчы Паспалітай не быў скліканы, а ў каронных правінцыях з гэтымі мэтамі склікаліся гал. соймікі. З'езд у Ваўкавыску ўхваліў падатак на абарону толькі ВКЛ і адзначыў, што скліканне манархам павятовых соймікаў і гал. сойміка без склікання сойма парушае правы і вольнасці ВКЛ, паколькі соймікі павінны склікацца толькі перад вальным соймам. У наступныя гады пры Стафане Баторыю гал. з'езд амаль заўжды адбываўся ў Вільні. У 1578 пасяджэнні павінны былі адбыцца ў Навагародку, але пазней было вырашана перанесці з'езд у Вільню (ці адбыўся, дакладна невядома). У Вільні прайшлі і гал. з'езды 1580 і 1584. Гал. з'езд 1582 у Ваўкавыску быў адначасова гал. соймікам. Жыгімонт III Ваза склікаў гал. з'езды ў 1588 (Вільня, перанесены ў Ваўкавыск), 1591, 1592, 1593 (усе ў Вільні), 1595 і 1597 (няма дакументальных пацвярджэнняў, што яны адбыліся). У 1602 гал. з'езд быў прызначаны ў Навагародку, але канцлер Л.Сапега выступіў супраць яго пераносу са «звыклого» месца.

Невядома, калі дакладна з'явіўся для абазначэння гал. з'езда не зусім слушны тэрмін «Віленская канвакацыя» (яны адбываліся не толькі ў Вільні). Магчыма, гэта адбылося ўжо ў канцы 16 ст. Упершыню гэты тэрмін сустракаецца ў крыніцах у дачыненні да Віленскага з'езда 1605. Для абазначэння гал. з'езда ўжываліся і інш. тэрміны. С.Маскевіч назваў гал. з'езд 1617 «соймікам канвакацыйным». Гал. з'езд (канвакацыя) ВКЛ функцыянаваў незалежна ад гал. (генеральнага) сойміка, існаванне якога было прадугледжана *Генрыкавымі артыкуламі*. Толькі ў рэдкіх выпадках, калі з'езды адбываліся незадоўга перад вальнымі соймамі Рэчы Паспалітай (як у 1582 ці 1613), яны маглі разглядацца сучаснікамі як гал. (генеральныя) соймікі.

Часцей за ўсё гал. з'езды склікаліся «ку намовам у справах і патрэбах военных» ці з мэтай адшукаць неабходныя грашовыя сродкі на абарону. У 1602 і 1605 гал. з'езды склікаліся для разгляду пытанняў забеспячэння абароны Інфлянтаў, у 1615 — для арганізацыі процістаяння ваен. дзеянням з боку Расіі і ўтрымання Смаленска. Неаднаразова на гал. з'ездах ухваляліся надзвычайныя падаткі. Акрамя таго, дзярж. з'езды ў час праўлення Стафана Баторыя займаліся праблемамі выпраўлення дзярж. ладу ВКЛ — распрацоўвалі канцэпцыю Трыбунала ВКЛ, разглядалі праект Трэцяга Статута ВКЛ. У часы Жыгімонта III гал. з'езд разглядаў пытанне стварэння сталага публічнага скарбу. У 1613 на гал. з'ездзе разглядалася пытанне размежавання Берасцейскага і Люблінскага ваяводстваў. Ставіліся на іх і пытанні замяшчэння дзярж. пасад.

Падставай для склікання гал. з'ездаў і павятовых соймікаў, якія яму папярэднічалі, былі звычайна прапазіцыі вял. князя. Як і перад вальным соймам, манарх дасылаў у паветы універсалы і даваў інструкцыі сваім паслам. Здаралася, аднак, што вял. князь мог цалкам даверыць канцлеру дапрацоўку такіх дакументаў. Пры пэўных абставінах манарх мог адмяніць раней прызначаны з'езд, як гэта адбылося ў 1602.

У адрозненне ад з'ездаў часоў бескаралеўяў, дзярж. з'езды ВКЛ (канвакацыі), якія склікаліся манархам, мелі фармалізаваную на ўзор соймаў структуру ўдзельнікаў, парадак склікання і пасяджэнняў, за выключэннем парадку склікання перадканвакацыйных соймікаў. Заўсёды ў пасяджэннях гал. з'ездаў прымалі ўдзел сенатары ВКЛ і ўпаўнаважаныя паслы рэгіянальных шляхецкіх карпарацый. Звычайна ад кожнага павета выбіраліся па 2 паслы, якім даваліся інструкцыі. Здаралася, што колькасць прадстаўнікоў ад паветаў значна павялічвалася. Часам на канвакацыях прысутнічалі прадстаўнікі Віленскай капітулы і прывілеяваных гарадоў. Бывала, як у 1580, на пасяджэннях гал. з'езда прысутнічаў і сам вял. князь. Пасяджэнні канвакацыі звычайна адбываліся ў 2 колах — сенатарскім і пасольскім пры магчымасці правядзення агульных пасяджэнняў на працягу 1—2 тыдняў. Рашэнні канвакацыя прымала, відаць, у адпаведнасці з прынцыпам усеагульнай згоды, які разумеўся, аднак, як «вяршэнства волі большасці над меншасцю». Калі на канвакацыі не прысутнічаў асабіста вял. князь, рашэнні патрабавалі яго зацвярджэння.

Шляхта не заўжды прыхільна ставілася да гал. з'ездаў, якія склікаліся Жыгімонтам III часта толькі для ўхвалення дадатковых падаткаў. Так, у 1605 лідская шляхта дамагалася ўхвалы, якая б забараніла скліканне гал. з'езда, калі яго мэтай будзе толькі ўхваленне надзвычайнага падатку. Паслы некат. іншых паветаў ВКЛ таксама выступалі супраць склікання «партыкулярных з'ездаў» і перакладання на іх манархам спраў, якія павінен разглядаць вальны сойм. У 1615 ашмянская шляхта выказала патрабаванне аб скліканні вял. князем гал. з'ездаў толькі са згоды вальнага сойма. У 1624 ужо сам з'езд ВКЛ у Вільні прасіў Жыгімонта III больш не склікаць гал. з'ездаў.

Усяго за часы панавання Стафана Баторыя і Жыгімонта III Вазы ў ВКЛ адбылося 15 (або 14) гал. з'ездаў ці канвакацый, пасяджэнні 12 з іх прайшлі ў Вільні. Уладзіслаў IV склікаў толькі адну канвакацыю ў 1634 для ўхвалення падаткаў, патрэбных у час вайны з Масквой. За часы Яна II Казіміра спробы склікання канвакацыі рабіліся неаднаразова, але паспяховай была толькі адна, скліканая ў 1665 у Белай (пасяджэнні перанесены ў Гародню). На звычайным сойме 1670 упершыню рашэнне аб скліканні Віленскай канвакацыі атрымала форму соймавай канстытуцыі, але лёс скліканай на сак. 1671 у Вільні канвакацыі быў сумны: пасля 2-тыднёвых спрэчак ковенскі пасол А.Прозар, падбухтораны Сапегамі, сарваў яго пасяджэнні. Гэта быў адзіны вядомы выпадак такога роду, што сведчыць пра паліт. культуру ўдзельнікаў гал. з'ездаў і іх турботу пра лёс дзяржавы. Пасля 1671 невядомы рэалізаваныя праекты склікання манархамі Рэчы Паспалітай канвакацый ВКЛ, хоць спробы такія рабіліся ў пач. 18 ст.

Па ініцыятыве прадстаўнікоў шляхты агульнадзярж. з'езды склікаліся ў часы рокашаў, узброеных грамадзянскіх



канфліктаў і войнаў. Так, ідэя склікання кароннага гал. з'езда ўзнікла ў асяроддзі Я.Замойскага ў канцы 1589 у сувязі з пагрозай вайны з Турцыяй. З ідэяй склікання падобнага з'езда ВКЛ у Слоніме ці Менску выступіў віленскі кашталян Я.Кішка. Падтрымаў гэту ідэю і канцлер Л.Сапега, які звярнуўся да віленскага ваяводы К.Радзівіла з просьбай склікаць з'езд. Аднак ад гэтай ідэі пазней адмовіліся. У час *Зэбжыдоўскага рокашу 1606—09* у ВКЛ адбылося 6 агульнадзярж. генеральных з'ездаў, скліканых без удзелу манарха. Пры гэтым легітымісты па ініцыятыве віленскага біскупа Б.Войны тройчы збіраліся ў Вільні (май і ліп. 1606, люты 1607) і адзін раз у Навагародку (вер. 1606), а ракашане ў маі 1606 і маі 1607 у Вільні. Больш-менш паспяховыя спробы склікання агульнадзярж. з'ездаў, ініцыятары якіх ставілі перад сабою розныя паліт. мэты, прадпрымаліся ў 1655—57 (Ясвойні, Кейданы, Пружаны, Берасце), 1662—63 (Аліта, Пуні), 1672 (Варшава, Вільня), 1698 (Вільня), 1700 (Вільня), 1701 (Ружаны, Вільня, Гародня), 1703 (Вільня), 1715 (Вільня), 1734 (Вільня) і 1756 (Слонім).

*Літ.*: Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). Т. 1. СПб., 1901; Šapoka A. Lietuva ir Lenkija po 1569 metų Liublino unijos. Kaunas, 1938; Wisner H. Konwokacja Wileńska: Z dziejów parlamentaryzmu litewskiego w czasach Zygmunta III // Czasopismo prawno-historyczne. 1968. T. 20, z.2; Яго ж. Sejmiki litewskie w czasach Zygmunda III i Władysława IV: Konwokacja Wileńska oraz sejmiki przedsejmowe i relacyjne // Miscellanea historico-archivistica. Warszawa; Łódź, 1989. T. 3; Яго ж. Sejm litewski czy Konwokacja Wileńska? // Zeszyty naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Opolu. Ser. A. Historia. 1973. T. 12; Яго ж. Rzeczpospolita Wazów: Czasy Zygmunta III i Władysława IV. Warszawa, 2002; Bardach J. Formes des Assemblées Représentatives du Grand Duché de Lituaniae aprés l'Union de Lublin (1569) // XIII[e] Congrčs International des Sciences Historiques. Moscou, 1970. T. 52; Seredyka J. Konwokacja Wileńska, ale jaka? // Zeszyty naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Opolu. Ser. A. Historia. 1973. T. 12; Dorobisz J. Konwokacja Wileńska z 1624 roku // Wilno—Wileńszczyzna jako krajobraz i środowisko wielu kultur. Białystok, 1992. T. 2; Lulewicz H. Zjazd w Rudnikach we wrześniu 1572 roku // Przegląd historyczny. 2000. Z. 2; Яго ж. Gniewów o unię ciąg dalszy: Stosunki polsko-litewskie w latach 1569—1588. Warszawa, 2002; Rachuba A. Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569—1763. Warszawa, 2002; Падалінскі У.А. Галоўны з'езд Вялікага Княства Літоўскага ў сістэме саслоўна-прадстаўнічых органаў Рэчы Паспалітай (апошняя трэць XVI—пачатак XVII ст.) // Материалы VII Респ. научной конф. студентов и аспирантов Беларуси. Новополоцк, 2002. Т. 1.

*Андрэй Радаман.*

**Галоўчынскія**, Галаўчынскія, княжацкі род герба «Лебедзь». Паходзілі ад князя Мацвея Мікіцініча, які прыехаў у ВКЛ з дваром *Алены Іванаўны*, дачкі вял. князя маскоўскага Івана III, жонкі вял. князя літоўскага Аляксандра. Нашчадкі Мацвея ў ВКЛ першапачаткова зваліся Мікіцінічамі, з 2-й пал. 16 ст. — Г. (ад назвы маёнтка Галоўчын каля Друцка), з 17 ст. карысталіся таксама тытулам князёў Рапалоўскіх. Аднак генеалагічная сувязь Г. з князямі Рапалоўскімі (у Расіі) не прасочваецца. Генеалог Ю.Вольф меркаваў, што Мацвей Мікіціціч мог прыбыць у ВКЛ у сувязі з няўдалай змовай 1499 князя С.І.Рапалоўскага на карысць княжыча Васіля Іванавіча. Вызнавалі праваслаўе, пасля перайшлі ў каталіцтва. Найб. вядомыя:

Мацвей Мікіціціч (?—1539), дваранін вял. княгіні Алены Іванаўны. Намеснік яе маёнткаў Магілёў, Княжыцы і Цяцерын каля Магілёва, Біршганы ў Ковенскім пав., Анікшты ў Вількамірскім пав. і інш. Пасля яе смерці (1513) прызначаны Жыгімонтам Старым намеснікам і дзяржаўцам біршганскім. Ад Алены Іванаўны і Аляксандра Ягелончыка атрымаў маёнткі Струня каля Полацка, Стаяцішкі ў Віленскім пав., Езна ў Ковенскім пав., Княжыцы і інш.

Астафій Мацвеевіч (?—6.3.1557), сын Мацвея Мікіціціча. Валодаў маёнткамі Палачаны, Лужаны, Занарач і Ажунічы ў Ашмянскім пав., Маладзечна і Заслаў у Менскім пав., Новы Двор, Княжыцы, Струня і інш.

Яраслаў Мацвеевіч (1520—кастр. 1567), сын Мацвея Мікіціціча. Маршалак гаспадарскі з 1549; дзяржаўца ляхавіцкі ў 1546—49 і ковенскі з 1565. Валодаў маёнткамі Водва, Галоўчын, Барберышкі, Езна і інш., з якіх у 1565 ставіў у войска 100 коннікаў і 50 драбантаў.

Шчэнсны Яраславіч (?—1610), сын Яраслава Мацвеевіча. Дзяржаўца любашанскі з 1581, кашталян менскі з 1600. Валодаў маёнткамі Галоўчын, Езна, Цітва, Шацк і інш.

Яраслаў Яраславіч (?—1622), сын Яраслава Мацвеевіча. Удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, у з'ездзе праваслаўных і пратэстантаў у Вільні ў 1599.

Аляксандр Яраславіч (каля 1570—12.5.1617), сын Яраслава Яраславіча. Кашталян жамойцкі ў 1604—14, ваявода мсціслаўскі з 1614; стараста лідскі ў 1602—13, дзяржаўца вількійскі з 1616. Удзельнічаў у *вайне Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* (Смаленская кампанія 1609), у мірных перагаворах з рас. пасламі ў 1615. Перайшоў у каталіцтва.

Канстанцін (?—восень 1620), сын Яраслава Яраславіча. Стараста крычаўскі ў 1611, кашталян мсціслаўскі з 1611.

Ян Шчэнснавіч (?—22.1.1631), сын Шчэнснага Яраславіча. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* на чале ўласнай харугвы ваяваў у 1621—22 у Інфлянтах. Чашнік ВКЛ з 1624.

Мікалай (?—пач. 1658), сын Канстанціна. Харужы аршанскі з 1644, пасол на сойм 1648. Апошні з роду Г.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 116—131; Безроднов В. Родословие князей Стародубских и происхождение князей Путятиных: (по материалам синодика князей Микитиничей-Головчинских) // Генеалогический вестник. СПб., 2001. Вып. 3.

*Валерый Пазднякоў.*

**галоўшчына** («головщизна»), адзін з відаў пакарання, прадугледжаны крымінальным правам ВКЛ за забойства чалавека. Спаганяўся ў выглядзе грашовага штрафу «з именья або маетности рухомае» вінаватага на карысць сваякоў забітага. Г. была дадатковым відам пакарання, але закон рэгламентаваў выпадкі скарыстання яе ў якасці асн. пакарання. Так, за забойства па неасцярожнасці адказнасць вінаватага абмяжоўвалася толькі Г. Яе памеры залежалі ад саслоўнага становішча або пасады, якую займала ахвяра, часам і ад прафесіі забітага. Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*, напр., за шляхціца Г. спаганялася ў памеры 100 коп грошаў, службовых асоб сельскага кіравання — 20 коп грошаў, рамеснікаў вышэйшай кваліфікацыі (залатых спраў майстра, арганіста, пушкара, дываншчыка, ткача і інш.) — 30 коп грошаў. Закон

асобна рэгламентаваў памер Г. па справах асоб нехрысціянскага веравызнання. У некат. выпадках Г. вызначалася ў двайным памеры («совито»). Напр., за забойства жанчын, за забойства «здрадливым потаемным обычаем» і інш.

*Таісія Доўнар.*

**Галубоўскі** (Голубовский) Пётр Васілевіч [16(28).6.1857, Чарнігаўская губ.—17(30).3.1907], расійскі гісторык. Д-р рус. гісторыі (1885), праф. ардынарны (1898). Скончыў гісторыка-філалагічны ф-т Кіеўскага ун-та (1881). Займаўся пад кіраўніцтвам праф. У.Б.*Антановіча*. У 1884—86 выкладаў у Ніжнім Ноўгарадзе і Ромнах. З 1886 выкладчык Кіеўскага ун-та, узначальваў кафедру рус. гісторыі. Навук. працы прысвечаны гіст. геаграфіі, гіст. бібліяграфіі, крыніцазнаўству стараж. гісторыі. У працы «Гісторыя Смаленскай зямлі да пачатку XV ст.» («История Смоленской земли до начала XV ст.», Кіеў, 1895) на падставе матэрыялаў са стараж. летапісаў, візантыйскіх, арабскіх, ням., польскіх, лац. і інш. крыніц, археал. і тапаграфічных даных тлумачыць ход славянскай каланізацыі з паўночна-ўсходняга Прыкарпацця, месцы рассялення славянскіх плямён, іх найменні (драўляне, паляне, крывічы), утварэнне бел. мовы, адрозненні паміж полацкімі і смаленскімі крывічамі. У кнізе прыведзены звесткі аб узаемаадносінах Смаленскага княства з ВКЛ і Маскоўскім княствам, пра развіццё гандлю і рамёстваў, грамадска-паліт. ладу княства, пададзены радавод смаленскіх князёў. Асаблівасці развіцця Смаленскага княства тлумачыць геаграфічнымі і этнаграфічнымі ўмовамі існавання, а шматлікія грамадска-паліт. падзеі сваяцкімі адносінамі князёў.

*Тв.*: История Северской земли до половины XIV столетия. Киев, 1881; Печенеги, торки и половцы до нашествия татар: История южнорусских степей IX—XIII вв. Киев, 1884; Что можно сказать в настоящее время о личности Лжедмитрия I? // Ист. вестник. 1902. Т. 88; Материалы русской истории и отношение к ним в разное время // Там жа. Т. 90.

*Літ.*: История исторической науки в СССР. Дооктябрьский период: Библиогр. М., 1965.

*Людміла Храпко.*

**Гальшанскі замак**, помнік палацава-замкавай архітэктуры 17—20 ст. Пабудаваны ў канцы 16—пач. 17 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне мяст. *Гальшаны*, на левым беразе р. Гальшанкі. Да сярэдзіны 16 ст. феад. рэзідэнцыя размяшчалася на гарадзішчы, што знаходзілася за 1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Карабель (левы прыток р. Гальшанкі). На новае месца перанесена, відаць, Багданам Сапегам. Замак неаднойчы быў разбураны, перабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. і ў пач. 20 ст., што значна змяніла яго вонкавы выгляд і аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю (страчаны галерэі, надбрамная вежа, дэкаратыўнае афармленне сцен, да фасадаў прыбудаваны 2 пяцігранныя 2-павярховыя прыбудовы). Замак — мураваны прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак (94,9 × 78,4 м). Яго карпусы з 4 шасціграннымі вежамі, накрытымі шатровымі дахамі, утваралі замкнёны амаль квадратны двор (65,4 × 57,4 м). Арачны праезд зроблены ў шматграннай надбрамнай вежы, прыбудаванай да гал. фасада паўн.-ўсх. корпуса. Захаваліся палавіна паўн.-зах. корпуса і прыбудова да яго, больш за палавіну паўн.-ўсх. корпуса і паўн. вуглавая вежа.

Даследаваннямі, праведзенымі ў 1981—83 архітэктурна-археал. экспедыцыяй Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў, устаноўлена, што замак будаваўся ў 3 этапы, якія адрозніваюцца характарам цэглы і тэхнікай муроўкі. Паміж розначасовымі муроўкамі няма перавязкі. Найб. ранняй уцалелай часткай помніка з'яўляецца зах. палавіна паўн.-зах. корпуса, збудаванага з цэглы-пальчаткі, сустракаецца клінкерная цэгла. Пазней пабудавана астатняя частка паўн.-зах. корпуса, паўн.-ўсх. і паўд.-зах. корпусы. На заключным этапе пабудаваны паўн.-ўсх. корпус з надбрамнай паўд. і зах. вуглавымі вежамі. Пра іх пазнейшае паходжанне сведчаць і памер цэглы, і штрабы, да якіх яны прыбудаваны пазней. Паводле будаўнічага матэрыялу і характару муроўкі 1-ы этап будаўніцтва можна датаваць 2-й пал.—канцом 16 ст., 2-і і 3-і этапы — пач. 17 ст. У час раскопак выяўлены рэшткі 5-граннай надбрамнай вежы, у тоўшчы паўн.-зах. мура якой былі вітыя ўсходы, што вялі на 2-і паверх палаца. У ніжняй частцы яе падмурка разам з цэглай выкарыстаны камяні. Падмуркі паўн.-ўсх., паўд.-ўсх. і паўд.-зах. карпусоў (2 апошнія захаваліся) былі менш глыбокія, чым падмуркі паўн.-зах. корпуса, пад якім зроблены глыбокія падвалы. Пасярэдзіне паўд.-зах. корпуса пабудавана замкавая капліца з гранёнай апсідай. У тыльнай сцяне корпуса, бліжэй да паўд. вежы, знаходзіўся смеццеправод, ад якога захавалася адтуліна, абкладзеная пляскатымі камянямі. Падобная адтуліна, але з паўцыркульным цагляным перакрыццем выяўлена ў паўн.-зах. грані паўд. вежы, што дае падставы меркаваць пра выкарыстанне паўд.-ўсх. часткі замка для гасп. мэт. Будынкі замка былі накрыты плоскай дахоўкай, падлога выкладалася з плітак (таўшч. 5 см) тэракотавых зорка- і крыжападобных з завостранымі канцамі і прамавугольных з зялёнай палівай. Печы аздоблены кафляй, пакрытай зялёнай і паліхромнай палівай, з раслінным, геаметрычным, зааморфным арнаментам. Трап-



**Гальшанскі замак** у 1-й пал. 17 ст. Рэканструкцыя Дз.С.Бубноўскага.

ляецца кафля з гербам роду Сапегаў, фрагменты тэракотавай кафлі, пазначанай 1635, калі памёр П.Сапега. Вынікі даследаванняў замка даюць падставу меркаваць, што ён з'яўляўся помнікам архітэктуры часоў маньерызму. Найбліжэйшыя аналагі — галандскія замкі таго ж перыяду.

*Літ.*: Чарняўскі І.М. Замак у Гальшанах // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 3; Бубноўскі Д.С. Архітэктурныя даследаванні Гальшанскага замка // Помнікі культуры. Мн., 1985; Вайцэховіч З. Замак у Гальшанах. Мн., 2000.

***Ігар Чарняўскі.***

**Гальшанскі кляштар францысканцаў**. Пабудаваны ў мяст. *Гальшаны* ў Ашмянскім павеце. Будынак касцёла ўзведзены ў пач. 16 ст., ёсць звесткі, што ў сярэдзіне 16 ст. ён служыў як кальвінскі збор. У 1618 на сродкі П.Сапегі касцёл перабудаваны ў стылі барока, узведзены жылы корпус кляштара. У пач. 1770-х г. будынак касцёла часткова разабраны, яго фундамент і сцены выкарыстаны для пабудовы новага касцёла, які захаваўся да нашага часу. Будынак прамавугольны ў плане, яго гал. фасад і апсіда маюць рысы барока: фігурны франтон, раскрапоўка пілястрамі, валюты. Эмацыянальны акцэнт інтэр'ера касцёла — жывапіс на сцяне 3-яруснага гал. алтара (выкананы ў 1790-я г.). У адной з капліц (3-ярусная кампазіцыя ў стылі рэнесансу) знаходзілася надмагілле Сапегі і яго жонак (цяпер захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нац. АН Беларусі). Да касцёла з паўд.-зах. боку прымыкае П-падобны ў плане 2-павярховы жылы корпус (часткова разбураны ў 1832). У 1810-я г. перад касцёлам пастаўлена мураваная брамазваніца ў стылі класіцызму.

*Літ.*: Кукуня О. Францисканский монастырь в Гольшанах // Каштоўнасці мінуўшчыны-3. Мн., 2000.

***Вольга Кукуня.***

**Гальшанскія**, княжацкі род герба «Гіпацэнтаўр» (выява каня, у якога галава, грудзі і рукі чалавека; замест хваста — змяя, якую паражае страла, выпушчаная з лука рукамі самой жа жывёліны. Генеалагічныя легенды 16 ст. звязвалі паходжанне Г. са стараж. літ. дынастыяй Кітаўрусаў, што панавала ў Літве перад дынастыяй *Віценя* і *Гедзіміна*. Магчыма, князі Г. сапраўды паходзілі ад кагосьці з родзічаў вял. князя *Трайдзеня* [1270?—82?], пазбаўленых улады новай дынастыяй. Родавым гняздом Г. быў *Гальшанскі замак* недалёка ад Ашмян. Найб. вядомыя:

Альгімант (?—?). Паводле бел.-літ. летапісаў Гедзімін, калі заваяваў Кіеў і Пераяслаў, «посадил на них князя Миндовгова сына Олькгимонта, великого князя Гольшанского». У Кіева-Пячэрскім пацерыку пры пераліку кіеўскіх князёў сапраўды ўпамінаецца імя «князя Олькгимонта, нареченого в святом крещении Михаила в иноцех Евфимия». Але значная частка даследчыкаў лічыць сюжэт пра кіеўскі паход Гедзіміна легендай, створанай не раней за канец 15 ст. ў асяроддзі літоўскіх магнатаў, якія часта ўпісвалі ў летапісы імёны сваіх родапачынальнікаў (у дадзеным выпадку гэта зроблена і з мэтай звязаць свой род з Міндоўгам). На падставе гэтай легенды імя Альгіманта магло трапіць і ў пацярык, складальнік якога ў 16 ст. дадаў сапраўдную або прыдуманую ім самім згадку пра правасл. хрышчэнне. Княжанне Альгіманта ў Кіеве не пацвярджаецца аўтэнтычнымі звесткамі 14 ст., у якіх пад 1331 і 1362 упамінаецца кіеўскі князь Фёдар. Інш. звесткі пра Альгіманта адсутнічаюць.

Іван (упамінаецца ў крыніцах у 1379—1401), сын Альгіманта. Першы вядомы прадстаўнік роду. Актыўны прыхільнік Вітаўта ў час яго барацьбы за велікакняжацкую ўладу, двойчы суправаджаў яго ў эміграцыю ў Прусію. Узначальваў пасольства, што адвозіла ў Маскву дачку Вітаўта Соф'ю, нявесту вял. князя маскоўскага Васіля Дзмітрыевіча. З 1392 адзін з набліжаных вял. князя Вітаўта, уваходзіў у велікакняжацкую раду. З 1396 намеснік у Кіеве. Атрымаў ад Вітаўта вял. воласці Глуск і Парэчча на р. Пціч, Дубровіцкае княства на р. Гарынь (Украіна). Меў сыноў Андрэя Вязынскага, Сямёна Лютага, Аляксандра Нялюба, Міхаіла і дачку Ульяну (1378—1448), якая была жонкай спачатку князя І.Карачаўскага, з 1418 — вял. князя Вітаўта.

Андрэй Вязынскі (каля 1365—каля 1410), сын Івана. Меў 3 дачок, з якіх сярэдняя *Соф'я* была польскай каралевай.

Сямён (Люты; ?—1433), сын Івана. Актыўны ўдзельнік барацьбы паміж Жыгімонтам Кейстутавічам і Свідрыгайлам за вял. княжанне. Намеснік Вітаўта ў Вял. Ноўгарадзе (каля 1420), у 1432 адзін з удзельнікаў змовы супраць Свідрыгайлы на карысць Жыгімонта. Верагодна, у жн. 1433 трапіў у палон да Свідрыгайлы і быў пакараны смерцю. Меў 6 сыноў: Данілу (загінуў у Вількамірскай бітве 1435 на баку Свідрыгайлы), Юрыя, Сямёна, Аляксандра, Андрэя, Глеба і дачку Ульяну (жонка князя С.Р.Кобрынскага).

Міхаіл (?—1433), сын Івана. Актыўны ўдзельнік барацьбы паміж Жыгімонтам Кейстутавічам і Свідрыгайлам за вял. княжанне. Намеснік кіеўскі ў 1422. На чале войска Свідрыгайлы ў чэрв. 1433 разграміў войскі Жыгімонта, аднак у хуткім часе перайшоў на яго бок. Відаць,



**Гальшанскі кляштар францысканцаў**. Касцёл Яна Хрысціцеля.

у жн. 1433 трапіў у палон да Свідрыгайлы і быў пакараны смерцю.

Сямён Трабскі (?—?), сын Сямёна Лютага. Меў адзіную дачку, праз шлюб якой з М.Гаштольдам яго частка вотчыны ў Гальшанах, Трабах і Глуску перайшла да Гаштольдаў.

Юрый (каля 1410—каля 1457), сын Сямёна Лютага. Адзін з арганізатараў выбрання вял. князем Казіміра Ягелончыка ў 1440, аднак у 1456 далучыўся да апазіцыі, якая хацела абраць вял. князем Сямёна Алелькавіча. Разам з братамі валодаў Гальшанамі, Глускам, Дубровіцай са Сцепанню (на Украіне), Раманавам у Аршанскім пав., Станькавам і Жыцінам у Менскім пав., Свіранамі, Шашоламі і Кроштамі ў Літве і інш. Меў дачку Ганну (другая жонка М.Гаштольда) і 5 сыноў: Івана Дубровіцкага (удзельнік змовы супраць вял. князя Казіміра, пакараны смерцю ў 1481), Аляксандра, Васіля, Юрыя і Сямёна.

Аляксандр Юр'евіч (каля 1440—1511), сын Юрыя. Намеснік гарадзенскі ў 1486—1505, крайчы ВКЛ у 1486, падчашы ВКЛ у 1488—92, кашталян віленскі з 1493, адначасова староста берасцейскі з 1506. Відаць, перайшоў з праваслаўя, якое раней вызнавалі ўсе Г., у каталіцтва. Шлюб з Соф'яй, дачкой віленскага ваяводы Алехны Судзімонтавіча, прынёс яму частку вялізнай спадчыны цесця: Воўпу ў Гарадзенскім, Хожава ў Ашмянскім, Сутокі, Заазер'е і частку Харэцкай воласці ў Менскім пав. Валодаў таксама Свіранамі і Шашоламі, Лебедзевам, Далькевічамі і Дунілавічамі ў Ашмянскім пав. Меў сыноў: Януша, Юрыя і Паўла, а таксама 4 дачок, з якіх Ядвіга (жонка Я.Л.Храбтовіча) і Аляксандра (жонка М.Паца) унеслі частку судзімонтаўскай спадчыны ў роды сваіх мужоў.



Да арт. **Гальшанскія**. П.Гальшанскі. Мастак Джавані даль Монтэ. Сярэдзіна 16 ст.




Да арт. **Гальшанскія**. Герб П.А.Гальшанскага. Дрэварыт з кн. «Дыяцэзіяльныя статуты для Луцкай дыяцэзіі». Кракаў, 1519.

Сямён Юр'евіч (каля 1455—1505), сын Юрыя. Староста луцкі з 1490, маршалак Валынскай зямлі з 1494, часовы спраўца пасад найвышэйшага гетмана ВКЛ і ваяводы новагародскага (1500—01). У выніку шлюбу з князёўнай С.Збаражскай набыў маёнткі на Валыні. Меў адзіную дачку Таццяну (жонка К.І.Астрожскага), да якой адышлі яго вотчыны (у т.л. частка Глуска, Гальшан, Раманава з Копыссю і Баранню і інш.).

Юрый Іванавіч (каля 1480—1536), сын Івана Дубровіцкага. Ваявода кіеўскі ў 1508—10. Нягледзячы на тое, што яго бацька быў пакараны за ўдзел у змове супраць вял. князя Казіміра, захаваў яго вотчыны, галоўнай з якіх былі Глуск (пазнейшы Глуск-Дубровіцкі), дзе ён заснаваў замак і мястэчка, і Дубровіца. Меў сыноў: Януша, Уладзіміра і Сямёна, а таксама 7 дачок.

Павел Аляксандравіч (каля 1490—1555), сын Аляксандра Юр'евіча. У 1504 вучыўся ў Кракаўскім ун-це, дзе выявіў вял. здольнасці да філасофіі. Пазней вучыўся ў Рыме (упамінаецца ў 1512). Пасля вяртання ў ВКЛ стаў прэлатам-архідыяканам касцёла св. Станіслава ў Вільні. Выхавацель будучага вял. князя Жыгімонта Аўгуста. З 1530 біскуп луцкі, з 1536 — віленскі. Адыгрываў значную ролю ў дзярж. і грамадскім жыцці ВКЛ, актыўна супрацьдзейнічаў Рэфармацыі. Ад бацькі і маці ўнаследаваў вял. частку родавых вотчын Г. і судзімонтаўскай спадчыны (Воўпа, Лебедзева, Дунілавічы, Хожава, Станькава, Жыцін), якія ён разам з інш. маёнткамі завяшчаў вял. князю.

Януш Юр'евіч Дубровіцкі (каля 1505—1549), сын Юрыя Іванавіча. Дзяржаўца горвальскі з 1531, стольнік ВКЛ у 1540, ваявода кіеўскі ў 1542—44 і троцкі з 1544, адначасова дзяржаўца магілёўскі з 1547.

Сямён Юр'евіч Дубровіцкі (каля 1515?—1556), сын Юрыя Іванавіча. Стольнік ВКЛ з 1555. Апошні мужчынскі

прадстаўнік роду Г. Пасля яго смерці вялізныя вотчыны, які ён атрымаў у спадчыну пасля бацькі і старэйшых братоў, былі падзелены паміж шасцю яго сёстрамі: Аленай (жонка П.І.Сапегі), Настассяй (жонка князя К.І.Заслаўскага), Соф'яй (жонка князя А.Палубінскага), Марыяй (спачатку жонка А.Мантоўта, потым М.Казінскага і кн. А.Курбскага), Ганнай (жонкай А.Кірдзея), Фядорай (жонка кн. Б.Саламярэцкага). Сёмая сястра Багдана, жонка кн. Вішнявецкага, памерла раней, не пакінуўшы нашчадкаў.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowe litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Гальшаны** (цяпер вёска ў Ашмянскім р-не Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв., на р. Гальшанка. Паводле легендарных звестак «Хронікі Быхаўца», Г. заклаў 4-ы брат князя Нарымунта Гольша. Адбылося гэта, на думку гісторыкаў 19 ст., у 1280. У «Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай» Г. ўпамінаюцца пад 1387, у Наўгародскім летапісе—пад 1406. На ПнУ ад сучаснай вёскі існаваў замак, у ім у 1440 і 1492 збіраліся з'езды ўплывовых феадалаў ВКЛ. У 15 ст. пабудаваны касцёл. Да 1555 уладанне князёў *Гальшанскіх*, з 1558 — Сапегаў. У 16 ст. існавала царква, кальвінскі збор. У 1-й пал. 17 ст. пабудаваны новы *Гальшанскі замак*, у 1618 — *Гальшанскі кляштар францысканцаў*. У 16—17 ст. дзейнічала паперня. У сярэдзіне 17 ст. Г. падзелены на 2 часткі: адна аддадзена за даўгі, другая захавалася за спадкаемцамі Сапегаў. У 18 ст. розныя часткі Г. знаходзіліся ва ўладанні Кунцэвічаў, Масевічаў, Пацаў і інш., з 1746 Г.К.Жабы, потым яго нашчадкаў. У *Паўночную вайну 1700—21* у 1702 мястэчка спалена шведамі. У 14—18 ст. значны цэнтр гандлю і рамёстваў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Корзун Э.С. Гольшаны. Мн., 1987; Вайцэховіч З. Гальшанскі замак. Мн., 2000; Гальшаны — дзе ажывае гісторыя // Спадчына. 2002. № 2—3.

***Валерый Грынявецкі.***



П.Н.**Галянскі**.
Мастак Я.Дамель.

**Галянскі** Піліп Нерыуш (30.8.1753, Кракаўскае ваяв.—26.1.1824), педагог, грамадска-палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай. Д-р тэалогіі і філасофіі. У маладосці ўступіў у піярскі ордэн, скончыў калегіум піяраў у Падалінцы, выкладаў у іх школах, з 1783 у варшаўскім «Калегіум нобіліум». Надрукаваў некалькі прамоў, дзе выклаў свае педагагічныя погляды ў духу Асветніцтва. Ухваляў дзейнасць Адукацыйнай камісіі, выступаў за адукацыю сялян. Узнагароджаны залатым медалём Merentibus («Заслужаным»). У 1787 прызначаны Адукацыйнай камісіяй намеснікам прафесара лац. і польскай л-ры Гал. школы ВКЛ. З 1792 праф. звычайны, адначасова сакратар маральна-палітычнага факультэта. У час *паўстання 1794* рэдактар органа Найвышэйшай Літоўскай рады *«Газэта Народова Віленьска»*. З 1803 праф. Свяшчэннага пісання факультэта маральных і паліт. навук, адначасова з 1808 выкладаў гамілетыку на факультэце л-ры і свабодных навук, у 1803—24 чл. рады семінарыі і цэнзар, у 1817—19 дэкан факультэта літаратуры. Гал. твор — «Пра красамоўства і паэзію» («O wymowie i poezji», Варшава—Вільня, 1786, 2 выд. Вільня, 1788, 3 выд. Вільня, 1808) стаў першым у Рэчы Паспалітай сістэматызаваным нарысам літаратуры і доўга выкарыстоўваўся як падручнік. Выдаў дапаможнік «Пісьмы, мемарыялы і прашэнні з адпаведнымі ўвагамі» («Listy, memoriały i supliki z uwagami stosownymi», Вільня, 1788, 4 выд. 1804), пераклад жыццяпісаў з Плутарха «Слаўныя людзі і іх параўнанні» («Sławni ludzie i onych porownania, Plutarcha dzieło historyczne, moralne i filozoficzne», т. 1—4, Вільня, 1801—05) і «Старажытныя алегорыі» («Allegorie starożytne w stosunku do I wieku Sławnych ludzi Plutarcha i czasów bohatyrsko-mitologicznych», Вільня, 1801). Апрацаваў паведамленні місіянера Ж.Аміё пра Кітай («Literatura chińska. Dla literatek i literatów w Europie. Z niektóremi wiadomościami o Chinach i Chińczykach... i filozofią Konfucjusza», Вільня, 1810). Аўтар прамоў на пахаваннях вучоных, рэліг. твораў, артыкулаў па педагогіцы.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гамулка** Мікалай (каля 1535, Сандамір—пасля 1591), кампазітар. Нарадзіўся ў сям'і мяшчан. З дзяцінства праявіў незвычайныя музычныя здольнасці. Адукацыю атрымаў у капэле караля Жыгімонта II Аўгуста. З 1548 займаўся ў каралеўскага флейтыста Яна Кляўса, практыкант, з 1558 паўнапраўны ўдзельнік прыдворнай капэлы. Іграў на драўляных духавых, струнных інструментах, аргане. У 1550-я г. разам з каралеўскім дваром наведаў Кракаў, Пётркаў, Гданьск, Каралявец і Вільню. Кантактаваў з *Вацлавам з Шамотул*, Ц.*Базылікам*, В.*Бакфаркам*, якія таксама працавалі пры двары. У 1563 пакінуў каралеўскую капэлу і пераехаў у Сандамір, дзе займаўся грамадскімі справамі. У 1580 у Кракаве паступіў на службу да біскупа П.Мышкоўскага, які падтрымліваў кампазітара ў яго творчай дзейнасці. У 1590—92 працаваў у канцлера Я.Замойскага. У Кракаве кампазітар выдаў зборнік (150 псальмаў), якія сталі грандыёзным помнікам усх.-еўрап. культуры эпохі Адраджэння. Пераклады біблейскіх тэкстаў, да якіх напісаў музыку Г., зрабіў Я.*КахаНоўскі*. 4-галосныя псальмы кампазітара напісаны ў лепшых традыцыях рэнесансавага мастацтва і прызначаны для шырокіх колаў аматараў і знаўцаў музыкі. Іх вылучаюць даступнасць муз. мовы, апора на папулярныя гімнічныя мелодыі, у т.л. змешчаныя ў канцыяналах. Свабодна валодаючы імітацыйнай тэхнікай, кампазітар аддаваў перавагу вертыкальна-гарманічнай харальнай фактуры, у якой выразна акрэслівалася партыя верхняга голасу, што набліжала яго творы да тагачаснай бытавой музыкі, асабліва кантаў. Некат. меладычныя звароты псальмаў Г. захаваліся ва ўзорах кантавага мастацтва, распаўсюджаных на славянскіх землях.

***Вольга Дадзіёмава.***

**Ганецкая** Ірына Уладзіміраўна (н. 22.9.1961, г. Маладзечна), беларускі гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1993). Скончыла Мінскі дзярж. педагагічны ін-т (1984). У 1984—86 настаўнічала, з 1989 у Ін-це гісторыі Нац. АН



Беларусі (з 1998 старшы навук. супрацоўнік аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду). Даследуе археалогію сярэдневякоўя і новага часу (горад, замак, матэрыяльная культура, архітэктура), гісторыю керамікі і керамічнай вытворчасці 11—18 ст. Адзін з аўтараў і рэдактараў «Археалогіі Беларусі» (т. 4, Мн., 2001).

*Тв.*: Маёліка на Беларусі XI—XVIII ст. Мн., 1995; Раскопкі ў Маладзечне // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн, 1996. № 8; Раскопкі старажытнага Слоніма // Там жа. Мн., 1996. № 10 (з Н.Здановіч); Культурныя ўплывы ў люстэрку мастацкай керамікі XVI—XVIII ст. // Заслаўскія чытанні 1995 года. Заслаўе, 1997; Resources for archaeology of medieval town and castle in Belarus // Issues and resources for the study of medieval Central Europe. Budapest; Cambridge, 2001; Характарыстыка крыніц па вывучэнні Глускага замка // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Вежа-брама Глускага замка па дадзеных археалогіі і пісьмовых крыніц // Badania archeologiczne w Polsce Pótocno-wschodniej i na Zachodniej Bialorusi w latach 2000—2001. Białystok, 2002; Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Жыровіцкага манастыра // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2002. № 5; Крыніцы па вывучэнні беларускіх замкаў // Бел. гіст. часопіс. 2003. № 9; Месца археалогіі ў рэканструкцыі штодзённага жыцця ў беларускім замку // Матэрыяльная і духоўная культура замкаў Беларусі. Мн., 2003; Праблема ідэнтыфікацыі вырабаў свержанскай фаянсавай мануфактуры // Праблемы ідэнтыфікацыі мастацкай спадчыны Нясвіжа ў агульнаеўрапейскім кантэксце культуры. Мн., 2004.

**Ганза** (стараверхненямецкае Hanse супольнасць, таварыства), гандлёвы саюз паўн.- і цэнтр.-нямецкіх гарадоў у 13—17 ст. на чале з Любекам. Першапачаткова, у 12—13 ст., саюз вандроўных купцоў (наз. «купцамі Рымскай імперыі»), што ператварыўся ў аб'яднанне гарадоў, якія гэтыя купцы прадстаўлялі. Назва «Нямецкая Ганза» ўпершыню выкарыстана ў 1356. Г. валодала манаполіяй на гандаль у басейнах Паўн. і Балтыйскага мораў, яна мела канторы і факторыі ў зручна размешчаных гарадах (Бруге, Лондан, Берген, Ноўгарад і інш.) У Любеку — перавалачным пункце і паліт. цэнтры — адбываліся агульныя з'езды ганзейскіх гарадоў, рашэнні якіх былі абавязковыя для ўсіх членаў саюза. За ўвесь час існавання ў Г. ўваходзіла каля 200 гарадоў. Росквіт Г. прыпаў на 2-ю пал. 14—1-ю пал. 15 ст. Пад канец 16 ст. яна саступіла сваю ролю англійскім, галандскім і французскім купцам. Заняпад Г. быў абумоўлены празмернай рэгламентацыяй і кансерватызмам унутр. жыцця, перамяшчэннем міжнар. шляхоў зносін, ростам мясц. купецтва, развіццём унутр. і знешняга гандлю. З'езд 1669, на якім былі прадстаўлены толькі 6 гарадоў, стаў апошнім. Гандлёвыя сувязі ням. купцоў з гарадамі Бел. Падзвіння ўсталяваліся на пач. 13 ст. Дагавор 1229 адкрываў шлях купцам Смаленска, Полацка і Віцебска ў Рыгу, на Гоцкі бераг і далей, а немцам вольны гандаль па ўсёй Дзвіне. Да сярэдзіны 13 ст. гал. цэнтрам гандлю з немцамі на Дзвіне стаў Полацк, у якім з'явілася пастаянная ганзейская факторыя (гл. *Полацкая нямецкая факторыя*). У адрозненне ад наўгародскай канторы, дзе ням. купцы кожныя паўгода мяняліся, тут яны маглі жыць стала, але асобнага двара не мелі. Ням. абшчына ў Полацку кіравалася статутам 1393, распрацаваным рыжскім магістратам, вярх. ўлада належала Рызе. Гал. грамадскім месцам і складам быў каталіцкі храм. Росквіт полацкай ганзейскай факторыі прыпаў на гады княжання Вітаўта, які стабілізаваў адносіны з Рыгаю Капыскім мірам 1407. Правы і льготы ням. купцоў у Полацку былі шырэйшыя, чым у многіх іншых канторах і дварах Усх. Еўропы. Полацкая ганзейская факторыя існавала да пач. 16 ст.

*Літ.*: Russisch-Livländische Urkundenbuch. S-Pb., 1868; Dollinger Ph. Die Hanse. Stuttgart, 1989.

***Генадзь Сагановіч.***

**Ганцавічы** (цяпер горад, цэнтр Ганцавіцкага р-на, Рэспубліка Беларусь), вёска ў Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Вядома з сярэдзіны 17 ст. Шляхецкая ўласнасць у Клецкай ардынацыі Радзівілаў. У 1652 у Г. 24 валокі зямлі. У 1773 уласнік фальварка Г. Макавецкі вылучыў яго са складу маёнтка Круговічы і прадаў навагародскаму падваяводу Ю.Абуховічу (у вёсцы 15 сядзіб, царква св. Антонія). Паводле падатковага тарыфа 1777 вёска знаходзілася ў Клецкай парафіі, Пінскім пав., налічвала 15 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ганязь**, Гонядзь (польск. Гонёндз, Goniądz, цяпер мястэчка ў Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Падляшскім ваяв., на р. Бебжа. Вядома з 14 ст. У 1425 канчаткова далучана да ВКЛ. У 1503 Ганязскі пав. з усімі маёнткамі дадзены князю М.Л.Глінскаму, ад якога перайшоў да віленскага ваяводы М.Радзівіла. У гэты час стаў цэнтрам Райгародска-Ганязскай дзяржавы. У 1530 тут нарадзіўся вядомы дзеяч рэфармацыйнага руху *Пётр з Ганёндза*. У 1547 атрымаў магдэбурскае права і герб: у залатым полі чорны мядзведзь. У 1566 у Г. 600 дамоў. З 1569 у Польскім каралеўстве. У 1571 уладальнік Г. ваявода полацкі С.Давойна запісаў Райгародска-Ганязскую дзяржаву вял. князю Жыгімонту Аўгусту, які далучыў яе да Кнышынскага стараства. Насельніцтва тэрыторыі было этнічна змешанае, з перавагай польскага. Для правасл. насельніцтва ў краі былі цэрквы ў Кнышыне і Багушэве. У 1574 Ганязскае старства аддадзена Яну Замойскаму, з 1603 належала яго сыну Тамашу. Наступнымі яго ўладальнікамі былі П.Невяроўскі, С.Віткоўскі, М.Асалінскі, Арсэці, Гінскія, Чапскія і Браніцкія. Апошнім уладальнікам быў Д.Радзівіл (пач. 19 ст.).

*Літ.*: Maroszek J. Dobra goniądzkie w XVI—XVIII wieku // Białostocczyzna. 1993. № 4; Kloza J., Maroszek J. Dzeje Goniądza: W 450 rocznicę praw miejskich. Białystok; Goniądz, 1997.

***Дарафей Фёнік.***

**Гарабурда** Васіль Міхайлавіч, беларускі друкар і кнігавыдавец 16 ст. Большасць даследчыкаў лічаць яго сынам дыпламата, дзярж. сакратара ВКЛ М.*Гарабурды*. Аднак у завяшчанні апошняга Васіль названы «сыноўцам» (пляменнікам). Праўдападобна, што Васіль — сын Анцуты (Міхайлы) Гарабурды, дробнага гаспадарскага шляхціца, уладальніка маёнтка Макрэц (Гродзенскі пав.). Гарабурды мелі цесныя сувязі з І.*Фёдаравым*, П.*Мсціслаўцам*, *Мамонічамі*, А.*Курбскім*, А.*Валовічам* і інш. культурнымі і палітычнымі дзеячамі, якія падтрымлівалі бел. кнігадрукаванне і асвету. Пры іх дапамозе, магчыма, пры непасрэдным удзеле Мамонічаў, Г. арганізаваў друкарню ў Вільні. Каля 1580 выдаў «Евангелле вучыцельнае» — блізкую копію заблудаўскага 1569, у 1582 — «Актоіх» («Васьмігалоснік») з паслясловем, падпісаным ім. Г. працягваў выдавецкія традыцыі Заблудаўскай друкарні, выдаваў кнігі на царкоўнаславянскай мове буйным фарматам, у 2 колеры. Раслінны арнамент заставак у кнігах нагадвае львоўска-маскоўскія ўзоры Фёдарава. Выходныя звесткі кнігі «Васьмігалоснік» дадзены ў двух каляндарных стылях, як у некаторых віленскіх выданнях Скарыны. Захава-

ласся каля 35 экзэмпляраў кніг Г. Друкарня яго перайшла да Мамонічаў, якія з 1583 аднавілі выдавецкую дзейнасць. Не выключана, што Г. — адзін з тых друкароў, якім гэта друкарня была абавязана сваім доўгім і прадукцыйным існаваннем.

*Літ.*: Анушкин А.И. На заре книгопечатания в Литве. Вильнюс, 1970; Зернова А.С. Типография Мамоничей в Вильне (XVII век)// Книга: Исслед. и материалы. М., 1959. Сб. 1.

***Георгій Галенчанка.***

**Гарабурда** Міхаіл Багданавіч (?—12.7.1586), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, дыпламат. З роду *Гарабурдаў*. З 1559 дзяк у канцылярыі ВКЛ, пісар ВКЛ з 1566, аднач асова з 1584 кашталян менскі. Зрабіў вял. ўклад у дыпламат. забеспячэнне *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У 1559 і 1561 ездзіў у Крым, каб схіліць татараў да нападаў на Расію. У 1563—64 і 1566 сакратар пасольстваў, у 1571 і 1572—73 пасланец ВКЛ у Маскву. Вёў перагаворы пра абранне на трон Рэчы Паспалітай царэвіча Фёдара Іванавіча пры ўмове прыняцця ім каталіцтва. За заключэнне перамір'я прызначаны пісарам ВКЛ. Пазней быў абвінавачаны ў спробе перадаць Расіі Інфлянты ўзамен за Полацк і адхілены ад дыпламат. дзейнасці. У 1579—81 у войску. У 1582 удзельнічаў у заключэнні *Ям-Запольскага перамір'я 1582*, быў у складзе пасольства ў Маскве. Лічыў, што дыпламат. метадамі можна падпарадкаваць Расію Рэчы Паспалітай. Пасол ВКЛ у Маскве ў 1585—86, вёў перагаворы пра унію абедзвюх дзяржаў і іх саюз супраць Турцыі. Валодаў маёнткамі Востраў, Клімавічы і Угрын у Слонімскім пав., путнымі слугамі ў Полацкім ваяв., быў дзяржаўцам свіслацкім у 1566—68. У 1568 атрымаў ва ўласнасць Свіслацкую вол. з 12 вёскамі. У 1567 выстаўляў у войска ВКЛ 19 коннікаў. У Маскве Г. набыў Біблію, якую перадаў кн. К.В.Астрожскаму для друкавання (лягла ў аснову т.зв. «Астрожскай Бібліі» 1581), а таксама інш. рукапісныя кнігі, якія пасля выдадзены бел. і укр. друкарамі.

*Літ.*: Флоря Б.Н. Русско-польские отношения и политическое развитие Восточной Европы во второй половине XVI—начале XVII в. М., 1978; Спірыдонаў М. Наданне Свіслацкай воласці Міхаілу Гарабурду: (Да праблемы скарачэння дзяржаўных уладанняў у Вялікім княстве Літоўскім у XV—XVI стст.) // Штогоднік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, 1999. Мн., 1999.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарабурды**, шляхецкі род герба «Габданк». Паходзілі, відаць, з полацкіх баяр. Найб. вядомыя:

Сямён Багданавіч, полацкі баярын, у час *Інфлянцкай вайны 1558—82* трапіў у маскоўскі палон. Валодаў у Полацкім ваяв. Азярцамі, Гарадзеяй, Ушачамі і інш. Лукаш Багданавіч, каралеўскі дваранін, удзельнік пасольстваў у Маскву ў 1537 і 1558. У 1563—66 у маскоўскім палоне. Міхаіл Багданавіч (?—1586), дыпламат, гл. *Гарабурда* М.Б. Васіль Міхайлавіч, друкар, гл. *Гарабурда* В.М. Міхал Кароль (каля 1640—1709), дзярж. і вайсковы дзеяч ВКЛ. У 1666 дэпутат Трыбунала ВКЛ, пасол на соймы 1688—99, з 1691 маршалак слонімскі. Выступаў супраць групоўкі Сапегаў. Камандаваў слонімскай харугвай у Алькеніцкай бітве 1700, дзе Сапегі былі разбіты.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарадзельская унія 1413**, саюз ВКЛ з Польшчай, юрыдычна замацаваны ў 3 граматах (прывілеях) 2.10.1413 у замку Гарадло на р. Зах. Буг. 1-я грамата выдадзена ад імя 47 польскіх феадалаў, якія надзялялі 47 феадалаў-католікаў ВКЛ сваімі гербамі і тым самым прымалі іх у сваё гербавае брацтва. У 2-й грамаце (да яе было прывешана 45 пячатак феадалаў ВКЛ) феадалы-католікі прымалі гербы польскіх феадалаў і абяцалі быць з імі ў вечнай дружбе і саюзе. У выпадку смерці вял. кн. Вітаўта яны абяцалі не выбіраць сабе князя без парады і згоды польскіх феадалаў. Тыя, у сваю чаргу, у выпадку смерці караля Ягайлы таксама не павінны былі выбіраць новага караля без парады і згоды вял. князя Вітаўта і феадалаў ВКЛ. У 3-й грамаце, якая ўвайшла ў гісторыю як *Гарадзельскі прывілей 1413*, польскі кароль Ягайла і вял. князь літоўскі Вітаўт абяцалі назначаць на дзярж. пасады феадалаў-католікаў, якія прынялі польскія гербы, і дазволіць ім свабодна распараджацца маёмасцю ў сваіх маёнтках і тым самым павысіць іх грамадскае становішча да князёў Рурыкавічаў і Гедзімінавічаў, даваць ільготы касцёлам, кляштарам і інш. каталіцкім установам. У грамаце абвяшчалася аб'яднанне ВКЛ з Польшчай, аднак гарантавалася захаванне адасобленасці і нязменнасці ўлады вял. князя, тым самым захоўвалася самастойнасць ВКЛ. Г.у. ўмацоўвала сілы ВКЛ і Польшчы ў барацьбе з замежнай агрэсіяй, а таксама мела на мэце задобрыць і супакоіць рымскую курыю, якой быў нанесены ўдар у выніку паражэння Тэўтонскага ордэна ў *Грунвальдскай бітве 1410*.

*Літ.*: Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932.

***Язэп Юхо.***

**Гарадзельскі прывілей 1413**, заканадаўчы акт, які юрыдычна замацоўваў *Гарадзельскую унію 1413*, выдадзены ад імя караля Польшчы Ягайлы і вял. князя літоўскага Вітаўта. Меў на мэце ўмацаванне і пашырэнне каталіцызму ў ВКЛ. У прывілеі канстатавалася, што з прыняццем каталіцтва ВКЛ «далучаецца, уключаецца, злучаецца, перадаецца» Польскаму каралеўству. Усе касцёлы і каталіцкі клір забяспечваюцца ўсімі правамі і



Да арт. **Гарадзельская унія 1413**. Акт баяр ВКЛ.



свабодамі згодна са звычаямі Польскага каралеўства. Паны, шляхта і баяры ВКЛ, якія прымуць каталіцкую веру і атрымаюць гербы, могуць карыстацца прывілеямі і падараваннямі, як і польскія паны і шляхта, пацвярджаліся іх правы на свабоднае распараджэнне сваёй маёмасцю і атрыманне спадчыны. Гарантаваліся правы жанчын на валоданне ўласнымі маёнткамі. Паны і шляхта ВКЛ павінны былі захоўваць пастаянства і вернасць каралю Ягайлу і вял. князю Вітаўту. Г.п. прадугледжваў увядзенне пасад ваяводы і кашталяна ў Вільні, Троках і інш. месцах. Асабліва важнае значэнне меў артыкул, у якім замацоўвалася правіла, што пасля смерці Вітаўта паны і шляхта ВКЛ не павінны былі выбіраць сабе вял. князя без згоды Ягайлы і польскіх феадалаў, а тыя пасля смерці Ягайлы таксама не павінны былі выбіраць новага караля без згоды Вітаўта, паноў і шляхты ВКЛ. Гэты артыкул, які ўпершыню заканадаўча замацоўваў выбранне вял. князя, супярэчыў і абвяргаў змест першага артыкула, у якім пацвярджалася зліццё ВКЛ з Польшчай, бо калі выбіраўся асобны вял. князь, то захоўвалася самастойнасць дзяржавы. А канстатацыя факта, што караля Польшчы павінны былі выбіраць толькі са згоды Вітаўта і феадалаў ВКЛ, сведчыць аб раўнапраўным становішчы ВКЛ і Польскага каралеўства. Прывілей прадугледжваў магчымасць склікання агульных соймаў феадалаў Польшчы і ВКЛ. Сцвярджэнне, што ўсе некатолікі, у асноўным праваслаўныя (а яны складалі большасць насельніцтва княства), не павінны былі дапускацца на дзярж. пасады і засядаць у панскай радзе, мела ідэалагічны, а не практычны характар, бо большасць мясц. кіраўніцтва і значная частка паноў-рады належалі да правасл. веры. А ўсе напышлівыя фразы аб зліцці, злучэнні, далучэнні і ўключэнні ВКЛ у склад Польшчы не мелі ў той час рэальнага значэння, бо традыцыя ўзаемаадносін паміж Польшчай і ВКЛ, якая склалася на аснове асабістай (персанальнай) уніі, не мянялася.

*Літ.*: Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932. S. 60—72; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Мн., 1959. Т. 1. С. 115—118; Юхо І. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991; С. 32—35.

*Язэп Юхо.*

**Гарадзенскае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Створана Гарадзенскім соймам 1793 на аснове *Гарадзенскага павета* Троцкага ваяводства. Цэнтр — г. *Гародня*. Падзелу на паветы не было. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) усх. частка Г.в. з Гародняй далучана да Рас. імперыі, зах. частка — да Прусіі. Ваявода гарадзенскі — А.Сухадольскі (1794—95), кашталян гарадзенскі — К.Вольмер (1793—95).

*Валерый Пазднякоў.*

**Гарадзенскае княства**, удзельнае княства ў ВКЛ у 14 ст. Яго тэрыторыя ўзыходзіла, відаць, да аднайменнага княства, якое існавала ў часы Кіеўскай Русі (згадваецца ў 1128—84). На час уваходжання ў склад ВКЛ у сярэдзіне 13 ст. як асобнае ўладанне не згадваецца ўадрозненне ад інш. княстваў Новагародскай зямлі (Ваўкавыскага, Слонімскага, уласна Новагародскага). Відаць, у гэты час у Гародні не было свайго князя, а тэрыторыя Г.к. кіравалася намеснікам вял. князя літоўскага. На гэтай пасадзе ў 1320-я г. ўпамінаецца *Давыд*. Пасля смерці вял. князя Гедзіміна (1341) Г.к. аднаўлена як адзін з удзелаў яго сына Кейстута. Той перадаў яго свайму сыну Паціргу, які ўзначальваў абарону Гародні ад крыжакоў у 1365. У пач. 1380-х г. княства належала Вітаўту Кейстутавічу, які быў пазбаўлены яго пасля паражэння Кейстута ў міжусобнай барацьбе з Ягайлам у 1382. У 1384 Г.к. вернута Вітаўту. Пасля яго няўдалага мяцяжу ў 1387, які прывёў да ўцёкаў у Прусію, гарадзенскі гарнізон захаваў вернасць Вітаўту і не паддаўся войскам Ягайлы. Пасля прыходу Вітаўта да ўлады ў ВКЛ (1392) Г.к. стала непасрэдным вялікакняжацкім уладаннем і ператварылася ў намесніцтва (гл. *Гарадзенскі павет*).

*Вячаслаў Насевіч.*



**Гарадзельскі прывілей 1413**.

**гарадзенскае шкло**, шкляны посуд Гарадзенскай мануфактуры шкляных пацерак, якая была створана А.*Тызенгаўзам* у 1760-я г. Выраблялiся шклянкі, бакалы, келіхі з лейка- і звонападобнымі чашамі, у форме ўсечанага конуса, пляшкі і штофы ў традыц. для Беларусі формах 4-гранных квартаў. На посудзе гравіраваліся буйнамаштабныя раслінныя кампазіцыі (апяразвалі посуд фрызам або адвольна размяшчаліся на яго сценках), а таксама арх. пейзажы, выявы людзей, птушак, надпісы. У раслінныя кампазіцыі ўключаліся дэкаратыўныя лінзы ў тэхніцы гранення.



Да арт. **Гарадзенскае шкло**. Шклянка. 18 ст.

**Гарадзенска-Троцкая унія 1432—33**, дзяржаўны саюз ВКЛ і Польшчы. Са смерцю вял. князя ВКЛ Вітаўта і абраннем



на трон ВКЛ Свідрыгайлы (1430) без захавання ўмоў *Гарадзельскай уніі 1413* унія паміж ВКЛ і Польшчай распалася. Каб яе аднавіць, кароль польскі Уладзіслаў II (Ягайла) і польскія паны аказалі падтрымку Жыгімонту Кейстутавічу, прыхільнікі якога абвясцілі яго ў 1432 новым вял. князем літоўскім. 15.10.1432 у Гародні паміж Жыгімонтам і яго прыхільнікамі з аднаго боку і 7 польскімі панамі на чале з кракаўскім біскупам Збігневам Алясніцкім падпісаны акт дзярж. уніі. Новая унія паўтарала асн. ўмовы *Віленска-Радамскай уніі 1401*. Жыгімонт абавязваўся трымаць ВКЛ на тых жа ўмовах, што і Вітаўт (з тытулам вял. князя, падначаленага польскаму каралю) і гарантаваў, што вял. княства пасля яго смерці пяройдзе да польскага караля і Кароны. У гэтым выпадку абвяшчалася магчымасць выбару новага вял. князя літоўскага, але зноў толькі з удзелам палякаў і часова. Больш дакладна вызначаны адносіны вял. князя да польскага караля: ён названы найвышэйшым князем Літвы, панам і старэйшым братам, г.зн. сеньёрам. Падолле было павінна цалкам належаць Кароне Польскай. Жыгімонт атрымліваў Валынь, але не як частку ВКЛ, а як асобнае пажыццёвае ўладанне (як яе трымаў Вітаўт). Спрэчныя валынскія воласці з замкамі Ратна, Ветлы, Лапацін, Гарадло далучаліся да Польшчы. У асабісты ўдзел Жыгімонт атрымаў спадчыну бацькі — Троцкае княства. Ён браў абавязак дапамагаць Польшчы ў барацьбе супраць крыжакоў, тым самым скасоўвалася перамір'е з крыжакамі, заключанае Свідрыгайлам у Скірстымоне ў 1431 і 1432. Жыгімонт абавязваўся, што ані ён, ані яго наступнік не будзе прэтэндаваць на каралеўскі тытул без ведама і згоды Польшчы. Аналагічны акт з боку баярства ВКЛ не быў выдадзены (відаць, таму, што прыхільнікаў Жыгімонта было мала). Сведкамі гарадзенскага акта выступілі 22 асобы, у т.л. віленскі і луцкі біскупы. Ідэнтычны акт Жыгімонт выдаў у Троках 20.1.1433, аднак там упомнена 41 сведка. Сярод іх няма прадстаўнікоў рускіх зямель, якія ў большасці былі на баку Свідрыгайлы, але прысутнічаюць некаторыя князі (упершыню ў дзярж. актах яны ўраўнаваны з баярствам). Сын Жыгімонта Міхал выдаў 18.10.1432 у Вільні акт, у якім абавязваўся трымацца абяцанняў бацькі, не прад'яўляць пасля яго смерці сваіх спадчынных правоў на ВКЛ і задаволіцца толькі Троцкім княствам. 5.10.1432 у Гародні ад імя Ягайлы было падпісана і пасведчанне інвестытуры Жыгімонта на трон ВКЛ. У актах Г.-Т.у. пацверджана права ўласнасці паноў на родавыя маёнткі і гаспадарскія наданні (на польскі ўзор), ураўнаваны ў гэтым праве рус. князі і баяры з літоўскімі. Ніякіх рэліг. абмежаванняў не было абвешчана. 3.1.1433 у Кракаве польскі кароль і каронная рада выдалі 2 акты, у якіх прынялі без змен гарадзенскі акт і абяцалі падтрымку Жыгімонту. Тым самым унія заключана канчаткова. Ягайла і Жыгімонт яшчэ раз пацвердзілі гэта актамі, выдадзенымі 27.2.1434 у Корчыне і Гародні. Г.-Т.у. дзейнічала да смерці Жыгімонта Кейстутавіча і абрання на трон ВКЛ Казіміра Ягайлавіча (1440).

*Літ.*: Halecki O. Dzieje unii jagiellońskiej. T. 1. Kraków, 1919. S. 294—305; Kutrzeba S., Semkowicz W. Akta unji Polski z Litwą, 1385—1791. Kraków, 1932. S. 74—105.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарадзенская Верхняя царква.** Пабудавана на мяжы 13 і 14 ст. на месцы Гарадзенскай Ніжняй царквы (12 ст.) на тэр. *Гарадзенскага Старога замка*. Выяўлена ў час археал. раскопак Ю.Ядкоўскім. Захаваліся: усх. частка сцен, частка паўн. сцяны з паўн.-зах. вуглом, унутраны слуп (з 1939 захоўваецца ў асобным павільёне). Гэта быў невялікі (8,9 × 8,9 м) квадратны ў плане храм з паўкруглай выступаючай апсідай. Вуглы яго былі абрэзаны, што нагадвае абрысы Ніжняй царквы. Падмурак складзены з 2—3 радоў камянёў, у муроўцы выкарыстаны тонкая і тоўстая брусковая цэгла. На думку археолага М.М.Вароніна, будынак быў атынкаваны, але гэта малаверагодна, бо тынкоўка на Беларусі паявілася ў 16 ст. Падлога была цагляная. У сярэдзіне будынка знойдзены рэшткі крыжовага ў плане слупа са зрэзанымі вугламі, які, на думку Вароніна, быў зроблены значна пазней. Больш познімі ён лічыў і яшчэ 2 слупы, што аддзялялі апсіду ад асноўнага аб'ёму будынка. Воронін прапанаваў першапачатковую рэканструкцыю плана царквы ў выглядзе бесслуповага аб'ёму з вял. апсідай. Пра час узнікнення помніка ў даследчыкаў няма адзінай думкі. Польскія вучоныя лічылі, што храм пабудаваны ў 13 ст. Ю.Вайцяхоўскі звязваў існаванне царквы з часам княжання Міндоўга (1230—60-я г.), але, на яго думку, яна магла знаходзіцца і ў замку вял. кн. Вітаўта. Воронін лічыў, што царква пабудавана ў 14 ст., пазней ён датаваў храм канцом 14—пач. 15 ст. Даследчыкі С.Абрамаўскас і В.Левандаўскас лічаць, што храм пабудаваны ў 2-й пал. 13 ст. Параўноўваючы цэглу гэтага храма з цэглай інш. тагачасных помнікаў Беларусі і Літвы (Крэўскі і Лідскі замкі, мураваныя збудаванні Навагародка і Вільні), можна зрабіць вывад, што храм пабудаваны на мяжы 13 і 14 ст. У 1-й пал.—сярэдзіне 16 ст. Верхняя царква існавала як замкавы храм і была разабрана ў час будаўніцтва замка Стафана Баторыя ў апошняй чвэрці 16 ст.

***Алег Трусаў.***

**Гарадзенская друкарня**, Гарадзенская каралеўская друкарня, адно з найбуйнейшых выдавецтваў ВКЛ у канцы 18 ст. Існавала ў 1775—96(?). Створана на аснове *Віленскай акадэмічнай друкарні*, перавезенай у 1775 падскарбіем надворным ВКЛ А.*Тызенгаўзам* у Гародню пасля скасавання ў Рэчы Паспалітай ордэна езуітаў (1773). Належала дзяржаве, фактычна ёю распараджаўся Тызенгаўз. Кіраўнікамі Г.д. афіцыйна лічыліся К.Маліноўскі (1775—80), Я.Ясінскі (1780—88, або 1790), Б.Ром (1780—92), паводле інш. звестак ксёндз Юрэвіч (1790—96?). У 1792 Ром і Ясінскі заснавалі ўласныя друкарні. У друкарні працавала каля 30 чал., была ўласная майстэрня для адліўкі літар, паперу завозілі ў асн. з Прусіі. У 1776—96 Г.д. выдала каля 100 кніг на польскай, лац., царкоўнаслав., франц., ням., яўрэйскай мовах. Большасць выданняў складалі матэрыялы сесій сойма Рэчы Паспалітай і Трыбунала ВКЛ, выпускалася шмат навук. л-ры, у т.л. «Кароткі збор карфагенскай і егіпецкай гісторыі» Г.Барэцкага (1776), «Флора Літвы» Ж.Э.Жылібера (1781) і інш., мастацкія творы Вальтэра, Ж.Б.Мальера, Ф.Карпінскага, І.Красіцкага, М.Карповіча і інш. У 1793 надрукавана лістоўка з вершамі Ясінскага «Аб сталасці», накіраваная супраць захопніцкіх імкненняў Расіі. Пераважная большасць рэліг. выданняў прызначалася для старавераў (аналіз паперы паказаў, што частка гэтай л-ры выдавалася ў інш. месцах, а выхадныя даныя пазначаліся для канспірацыі). У 1776—83(?) у Г.д. друкаваўся штотыднёвік *«Газэта Гродзеньска»*. Выданні Г.д. вызначаліся высокай якасцю друку і мастацкага афармлення. У сярэдзіне 1790-х г. друкарня спыніла сваю дзейнасць, яе абсталяванне паводле загаду віленскага

біскупа І.Касакоўскага перададзена Віленскай каталіцкай епархіі.

*Літ.*: Сопиков В. Опыт российской библиографии... Ч. 1, 5. СПб., 1813, 1821; Миловидов А.И. Описание славяно-русских старопечатных книг Виленской публичной библиотеки (1491—1800 гг.). Вильна, 1908; Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923; Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Z. 5. Wrocław etc., 1959; Голенченко Г.Я. Библиографический список белорусских старопечатных изданий XVI—XVIII вв. Мн., 1961; Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII ст.// Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; Белоруссия в печати XVIII столетия: Библиогр. указ. на иностр. яз. Мн., 1985; Кніга Беларусі, 1517—1917: Зводны каталог. Мн., 1986; Киреева Г.В. Гродненские издания XVIII века: к созданию национальной ретроспективной библиографии Беларуси // Здабыткі: Дакументальныя помнікі на Беларусі. Мн., 2002. Вып. 5.

***Сяргей Казуля.***

**Гарадзенская капэла езуіцкай бурсы.** Існавала ў 18 ст. пры Гарадзенскай муз. бурсе езуітаў (адкрыта ў 1707), якая рыхтавала прафесійных музыкантаў з ліку немаёмных слаёў насельніцтва. У 1773 у капэле было 11 інструменталістаў і вакалістаў, у т.л. платныя музыканты, а таксама вучні («хлопцы»). Капельмайстар Л.Каршулеўскі. Капэла ўключала 7 скрыпак, басэтлю, квартвіёлу, бас, 2 флейты, флейту-бас, 2 флейтроверсы, 5 валторнаў, 5 труб, 2 барабаны, клавікорд, арган і інш. У рэпертуары былі творы царкоўнай (месы, магніфікаты) і свецкай (матэты, арыі, канцэрты, сімфоніі) музыкі кампазітараў Габермана, Кайзера, Квіткоўскага, Краўза, Паўлоўскага, Ратхгебера, Хішбергера, Чарвенкі, Шуле і інш.

***Вольга Дадзіёмава.***

**Гарадзенская капэла Тызенгаўза,** прыдворны аркестр раннекласічнага складу гарадзенскага старасты А.*Тызенгаўза* ў 1765—80. Належала да найбольшых і найлепшых па прафесійным узроўні калектываў падобнага роду ў ВКЛ, славілася і за яго межамі, у т.л. ў Мангейме (Германія); у 1780 была ангажыравана ў Нац. тэатр у Варшаве. Суправаджала паказы *Гарадзенскага тэатра Тызенгаўза,* касцельныя службы, іграла на балях, розных урачыстасцях і інш. Рэпертуар капэлы ўключаў араторыі, месы, муз.-сцэнічныя творы, сімфоніі, быт. музыку (танцы, дывертысменты, серэнады). Удзельнічала ў выкананні оперы А.Грэтры «Магніфік» («Велікапышны»), камеды П.Бамаршэ «Севільскі цырульнік», «Сялянскага балета» і «Балета пекараў». Выконвала сімфоніі І.Гайдна, а таксама музыку, створаную ў прыдворным асяроддзі Тызенгаўза. У капэле былі замежныя і мясц. музыканты, у т.л. прыгонныя, якія атрымлівалі адукацыю ў *Гарадзенскай музычна-тэатральнай школе Тызенгаўза* або пры дварах у Нясвіжы, Слоніме. У час росквіту капэлы ў 1777—79 у ёй было 30 капэлістаў і 7 «хлопцаў з капэлы». З адстаўкай Тызенгаўза капэла распалася.

*Літ.*: Żórawska-Witkowska A. Kapela Antoniego Tyzenhauza w Grodnie // Muzyka. 1977. № 2.

***Іна Назіна.***



**Гарадзенская медыцынская акадэмія.**

**Гарадзенская медыцынская акадэмія,** Гарадзенская медыцынская школа, вышэйшая навучальная ўстанова па падрыхтоўцы медыцынскага персаналу. Існавала ў 1775—81 у Гародні. Заснавана па ініцыятыве *Адукацыйнай камісіі* і гарадзенскага старасты А.*Тызенгаўза.* Арганізатар і кіраўнік — Ж.Э.*Жылібер.* Мела 3 аддзяленні: вышэйшае лекарскае (на 10 юнакоў са шляхты) для працы ў гарадах; падрыхтоўкі правінцыяльных лекараў і хірургаў (20 чал.); аддзяленне павітух (на 5, потым 17 чал.). Навучэнцы 2-га і 3-га аддзяленняў утрымліваліся за кошт скарбу і набіраліся з прыгонных сялян Берасцейскай, Гарадзенскай, Аліцкай, Шаўліскай каралеўскіх эканомій, дзе яны павінны былі працаваць пасля заканчэння вучобы. Пры акадэміі дзейнічалі шпіталь (60 ложкаў), прыродазнаўчы кабінет, анатамічны тэатр, аптэка (з 1687), б-ка, *Гарадзенскі батанічны сад.* У 1781 пераведзена ў Вільню, дзе стала базай для стварэння мед. факультэта *Віленскай акадэміі.*

*Літ.*: Крючок Г.Р. Очерки истории медицины Белоруссии. Мн., 1976; Грицкевич В.П. С факелом Гиппократа: Из истории бел. медицины. Мн., 1987; Мілінкевіч А. Гродзенская каралеўская медычная акадэмія // Гарадзенскія запісы. Гародня, 1993. Вып. 1.

***Андрэй Самусік.***

**Гарадзенская музычна-тэатральная школа Тызенгаўза.** Існавала ў 1774—80 у Гародні. Створана гарадзенскім старастам А.*Тызенгаўзам* для задавальнення патрэб *Гарадзенскага тэатра Тызенгаўза.* Кіраўнік — скрыпач і капельмайстар Л.Сітанскі. Навучаліся дзеці прыгонных сялян і мяшчан, якія мелі муз. здольнасці. Вучні набывалі навыкі ігры на струнных і духавых інструментах, клавікордах. Вывучаліся таксама спевы, танец, нотная грамата, тэорыя музыкі і кампазіцыя, некат. агульнаадукацыйныя прадметы, рукадзелле; чыталіся лекцыі па выхаванні. Вучні школы выступалі ў спектаклях тэатра (у балетах Г.Петынеці «Сялянскі балет», «Квартэт дудароў», «Балет пекараў», усе 1778). Яе выхаванцы — танцоўшчыкі Е.Валінскі, Д.Пякарская-Сітанская, М.Рымінскі, спявачка М.Сітанская праславіліся ў польскім тэатры. З адстаўкай Тызенгаўза школа пераведзена ў Паставы.

*Літ.*: Prosnak J. Grodzieńska szkoła muzyczna w czasach Antoniego Tyzenhauza //

Muzyka. 1969. № 2; Mamontowicz-Lojek B. Szkoła artystyczno-teatralna Antoniego Tyzenhausa, 1774—1785 // Rozprawy z dziejów oświaty. Wrocław etc., 1968. T. 11.

*Гурый Барышаў.*

**Гарадзенская эканомія**, каралеўская гаспадарка ў ВКЛ у 16—18 ст. Створана ў 1589 з дзярж. маёнткаў *Гарадзенскага павета*, даходы з якіх ішлі на ўтрыманне каралеўскага двара. У 16—17 ст. была асобнай адм.-гасп. адзінкай, маёнткі яе здаваліся ў арэнду. Паводле інвентара 1783, Г.э. падзялялася на 5 губерняў (Азёрская, Дамброўская, Квасаўская, Крынкаўская, Сакольская, Яноўская), у склад якіх уваходзілі 49 ключоў, 24 фальваркі, 1 лентвойтаўства, 13 гарадоў і мястэчак, 368 вёсак — усяго 7294 валокі зямлі, 10 580 гаспадарак, насельніцтва 42 380 чал. У эканоміі ляжалі 5 пушчаў (Белавежская, Лужыцка-Аліцкая, Перстунска-Пераломская, Сакольска-Новагародская, Стрыеўска-Берштаўская). Амаль усе сял. гаспадаркі былі цяглыя і толькі некаторыя вольныя ад паншчыны. Жорсткая эксплуатацыя і дэспатызм адміністрацыі неаднаразова былі прычынай сял. хваляванняў. Варшаўскі сойм 1662 прыняў спец. пастанову аб навядзенні парадку ў эканоміі. Рэкамендавалася прыцягваць да суда і караць смерцю сялян эканоміі, вінаватых у забойствах шляхціцаў, нападах на касцёлы, цэрквы і шляхецкія двары. Але ўвогуле становішча сялян эканоміі было лепшае, чым у магнацкіх і царк. уладаннях. Значныя страты эканоміі нанеслі войны сярэдзіны 17—пач. 18 ст., эпідэмія чумы 1709—10. У 2-й пал. 18 ст. гаспадарка адноўлена, пачалі дзейнасць *Гарадзенскія каралеўскія мануфактуры*. Укаранёны некат. прагрэсіўныя тэхналогіі ў жывёлагадоўлі, садаводстве і інш. У выніку рэформ падскарбія ВКЛ А.*Тызенгаўза* ў 1770-я г. ў эканоміі ўведзены шарваркавыя (20 дзён за год на гаспадарку) і падводныя павіннасці, павялічаны грашовы і натуральны аброк. У гаспадарцы пабольшала колькасць беглых сялян і выпадкаў псавання маёмасці, вядомы таксама скаргі сялян эканоміі ў сувязі з рабаваннем іх гаспадарак аканомамі, пададзеныя ў 1777 на імя караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У 1791—92 такія скаргі падаваліся некалькімі вёскамі. Пасля далучэння да Рас. імперыі (1795) уладанні эканоміі рас. ўрад падараваў ці прадаў прыватным асобам.

*Літ.*: Писцовая книга Гродненской экономии. Ч. 1—2. Вильна, 1881—82; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Ягож. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII в. Вильнюс, 1966.

*Якаў Мараш.*

**Гарадзенскі батанічны сад.** Існаваў у 1775—81. Закладзены вучоным Ж.Э.*Жылібер*ам. Па разнастайнасці, колькасці відаў раслін не саступаў лепшым садам Еўропы. Калекцыя камплектавалася з мясц. відаў і раслін, атрыманых са Страсбурскага і Эдынбургскага садоў, падараваных вядомымі батанікамі (напр., акад. П.С.Палас пераслаў сабраныя ім сібірскія расліны). У 1777 у садзе было 1200 відаў экзотаў (у т.л. некалькі амерыканскіх, якія паспяхова раслі ў адкрытым грунце), у 1778 — больш за 2000 відаў. У 1781 большая частка калекцыі перавезена ў Вільню.

**Гарадзенскі езуіцкі калегіум**, навучальная ўстанова ў Гародні ў 1625—1773. Уключаў вучэбныя і жылыя памяшканні, б-ку (у 1773 мела 2373 кнігі), аптэку (засн. ў 1687), сад, гасп. будынкі, *Гарадзенскі касцёл Францыска Ксаверыя*. Яго пабудовы займалі цэлы квартал горада. Калегіум складаўся з 2 аддзяленняў: малодшага, якое мела 5 класаў (апошні — 2-гадовы), і старэйшага, 3-гадовага. Выкладаліся традыцыйныя для калегіумаў прадметы: «сем вольных мастацтваў», тэалогія, класічныя мовы і інш. У 1707 пры калегіуме адкрыта муз. бурса, пры ёй дзейнічала капэла ( гл. *Гарадзенская капэла езуіцкай бурсы*). На 1773 калегіум валодаў 7 фальваркамі і 25 вёскамі ў Гарадзенскім пав., у якіх было 240 дымоў. Пасля роспуску ў 1773 ордэна езуітаў будынкі і маёмасць калегіума перададзены *Адукацыйнай камісіі*, пазней — урадавым установам. Калегіум адыграў значную ролю ў пашырэнні ўплыву каталіцкай царквы на З Беларусі, яго дзейнасць спрыяла зацвярджэнню еўрап. сістэмы адукацыі на Гарадзеншчыне. У ліку яго выхаванцаў асветнік і астраном М.*Пачобут-Адляніцкі*.

*Літ.*: Блинова Т.Б. Иезуиты в Беларуси: Роль иезуитов в организации образования и просвещения. Гродно, 2002.

*Тамара Блінова.*

**Гарадзенскі кадэцкі корпус**, Гарадзенская вайсковая школа,



Аўтар Я.К.Анішчанка






Да арт. **Гарадзенскі касцёл Францыска Ксаверыя**. Сцэна з жыцця св. Францыска Ксаверыя. 1752.

Гарадзенская кадэцкая школа. Дзейнічаў у Гародні ў 1774—76. Заснаваны гарадзенскім старастам А.*Тызенгаўзам*. У 1774 было 17, у 1775 — 23 выхаванцы. Навучанне і выхаванне праводзілі 7 асоб на чале з вайсковым інжынерам Ф.К.Фроліхам (магчыма, ураджэнец Саксоніі). Выкладаліся арыфметыка, алгебра, геаметрыя, ням. мова, страявая падрыхтоўка, фехтаванне і інш.

**Гарадзенскі Каложскі Барысаглебскі манастыр**. Існаваў у Гародні з 15 ст. пры Гарадзенскай Барысаглебскай царкве ў прадмесці Каложа. У 1480 пры першым вядомым ігумене Каліксце гарадзенскі мешчанін І.Сергіевіч завяшчаў манастыру фальварак Панямонь, пан Р.Хадкевіч – штогадовую даніну ў 20 бочак мукі. Каля 1500 вял. князь Аляксандр падараваў манастыру сад на беразе Нёмана, а кцітар (стараста з міран) каралеўскі пісар Б.Багавіцінавіч – фальварак Чашчаўляны. У сярэдзіне 16 ст. манастыр заняпаў і ў ім не было манахаў. У канцы 16 ст. адрадзіўся і стаў уніяцкім. Сярод уніяцкіх ігуменаў быў вядомы пісьменнік-палеміст Леў Крэўза. З сярэдзіны 17 ст. тут вядомы цудатворны абраз Маці Божай Каложскай (эвакуіраваны ў 1915, месца яго знаходжання невядома). У пач. 18 ст. пры ігумене Воўку-Ланеўскім манастыр зноў заняпаў, а ігумен Яхімовіч аддаў усю зямельную маёмасць гарадзенскім кармелітам. Пасля скасавання ў 1839 уніяцкай царквы манастыр зноў праваслаўны, у сярэдзіне 19 ст. ён пераведзены ў будынкі закрытага Гарадзенскага кляштара бернардзінак. Спыніў існаванне ў 1-ю сусв. вайну.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Гарадзенскі касцёл Францыска Ксаверыя**. Уваходзіў у комплекс *Гарадзенскага езуіцкага калегіума*. Першы езуіцкі касцёл Пятра і Паўла быў узведзены з дрэва і існаваў з 2-й чвэрці 17 ст. да 1700. Будаўніцтва мураванага касцёла пачалося ў 1678 (фундатары Самуэль і Канстанцыя Лозы). Першае набажэнства ў касцёле адбылося ў 1700, асвячэнне ў імя Францыска Ксаверыя, на якім прысутнічалі Аўгуст II і цар Пётр I, — у 1705. У 1707 рэзчык з Караляўца К.Пойкер (?) распрацаваў праекты ўсіх алтароў (кулісныя і бакавыя былі выкананы ў 1709—16, галоўны — разьбяром Я.Шмітам з Рэшэля ў 1736—37). У 1725 на вежузваніцу касцёла перанесены гадзіннік, які знаходзіўся раней на вежы калегіума. У 1744 у Караляўцы закуплены арган, у 1745 у Рэшэлі — цыборыум (балдахін над алтаром). У 1750—52 муляр К.Бурман надбудаваў вежы. У гэты ж час быў зроблены новы амбон і выкана624 фрэскавы цыкл. У 1783 касцёл ператвораны ў фарны (прыходскі).

Касцёл — 3-нефавая крыжова-купальная базіліка (выш. 53,6 м, у плане 30 × 60 м). Трансепт і цэнтр. неф маюць аднолькавую вышыню і вышэйшыя за бакавыя нефы. На ветразях сяродкрыжжа ўстаноўлены светлавы барабан і сферычны купал з ліхтаром. Па баках паўцыркульнай апсіды прыбудаваны 2 капліцы са сферычнымі купаламі — архангела Міхала і Маці Божай Студэнцкай. 2-вежавы амаль плоскі фасад падзелены паясамі антаблементаў на 3 ярусы, 2 ніжнія раскрапаваны падвойнымі карынфскімі



**Гарадзенскі касцёл Францыска Ксаверыя**.



пілястрамі. У арачных нішах драўляныя выявы апосталаў Пятра і Паўла, св. Францыска Ксаверыя (разьбяр Г.Гіс, 1768). У цэнтры фасада — вял. акно і балкон для аркестра. Сілуэт ажыўляюць увагнутыя сцены і 2 вазы мураваных барочных купалаў над вежамі. Двухмаршавая лесвіца, упрыгожаная фігурай Хрыста з крыжам перад гал. уваходам, пабудавана ў пач. 20 ст. Каваныя жалезныя дзверы гал. ўвахода зроблены кавалём Я.Біршам (1744). Бакавыя фасады выкананы ў стрыманых формах ранняга барока: раскрапаваны падвойнымі пілястрамі і тонкімі карнізнымі паясамі. Бакавыя нефы высокія (10,5 м), без крытых галерэй, асветлены вял. лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. Плітачная падлога выкладзена «шведскім» (готландскім) каменем. Нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, гурты якіх упрыгожаны раслінным арнаментам. Па перыметры гал. нефа над антаблементам размешчана галерэя з балюстрадай; яго сцены раскрапаваны адзіночнымі карынфскімі пілястрамі (капітэлі выкананы з дрэва). Пры ўваходзе — хоры з арганам, да якіх вядуць вітыя ўсходы ў тоўшчы сцен. Высокамастацкі багаты і ўрачысты інтэр'ер насычаны скульптурай, архітэктурнай пластыкай і фрэскамі. Гал. драўляны алтар (выш. 21 м) зроблены ў 1736 з дрэва ў стылі позняга барока. Мае 3-ярусную кампазіцыю. Запаўняе ўсю прастору апсіды, аздоблены шматлікімі калонамі і пілястрамі. У ніжнім ярусе размешчаны 13 скульптурных выяў — Францыска Ксаверыя, 10 апосталаў і патронаў-фундатараў, у другім — Хрыста, 4 евангелістаў і 4 айцоў царквы. Алтар завершаны глорыяй, якая абрамляе акно апсіды. Перад ёй схіляюць галовы 4 бакі свету, увасобленыя ў жаночых вобразах. Таніраваны пад светлы мармур у 1752, перафарбаваны пад цёмны ў 1900. У касцёле 12 бакавых алтароў: 2 у капліцах, 4 у трансепце і 6 кулісных. Адзін мураваны алтар у капліцы Маці Божай Студэнцкай выкананы ў тэхніцы стука ў стылі класіцызму. Алтар св. Міхала ў паўн. капліцы больш ранні (відаць, застаўся ад драўлянага касцёла). Алтары трансепта вузкія і высокія, з высунутымі наперад бакавымі крыламі. Таніраваны пад цёмны мармур. Маюць 2-ярусную кампазіцыю, аздоблены пазалочанымі калонамі, скульптурнымі выявамі, ажурнай разьбой. Яскравым мастацка-дэкар. элементам інтэр'ера з'яўляецца ўпрыгожаны высокім балдахінам амбон, які падтрымліваецца ракавінай-кансоллю. Выкананы ў стылі ракако, мае характэрныя мудрагелістыя формы, аздоблены багатай пазалочанай разьбой, скульптурнымі выявамі евангелістаў, анёлаў і амураў у імклівых паставах. У стылі ракако выкананы таксама спавядальні (частка з іх зроблена майстрам І.Мейфельтам у 1768). Фрэскавы жывапіс складаецца з 14 сюжэтных кампазіцый з жыцця св. Францыска Ксаверыя, якія аздабляюць прасценкі над аркамі цэнтр. нефа, трансепта і прэсбітэрыя. Падкрэслены асіметрычныя шматфігурныя кампазіцыі фрэсак з пейзажам і архітэктурным фонам упісаны ў прамавугольныя рамы. На апошняй выяве манаграма «B. I.: D. P. 1752».

*Літ.*: Paszenda J. Kościół pojezuicki (farny) w Grodnie // Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. Kraków, 2000. T. 2.

***Аляксандр Мілінкевіч, Ежы Пашэнда SJ.***

**Гарадзенскі кляштар бернардзінцаў.** Заснаваў вял. князь Аляксандр у 1495, але кляштар не быў пабудаваны. У 1586 фундацыю Аляксандра пацвердзіў кароль Стафан Баторый. У 1595 бернардзінцам ахвяравала пляц княгіня Г.Друцкая-Саколінская (тэрыторыя былых каралеўскіх стайняў), у 1596 суседні пляц падараваў Я.М.Тарасовіч. Паміж 1595 і 1600 пабудаваны мураваны гатычны касцёл – 1-нефавы, прамавугольны ў плане храм з выцягнутым у даўжыню прэсбітэрыем і 3-граннай апсідай. Кожная бакавая сцяна мела па 6 стральчатых акон, прэсбітэрый – 4, апсіда – 3. Пасярод даху знаходзілася вежачка з фігурным купалам. У 1605—17 касцёл грунтоўна перабудаваны. Да прэсбітэрыя прыбудавана новая 3-нефавая барочная базіліка з 6 калонамі ўнутры. З правага боку да фасада прыбудавана званіца. Касцёл меў выразныя рысы люблінскай школы дойлідства. Да 1609 пабудавана ўсх. частка кляштарнага комплексу, якая тарцом прымыкае да прэсбітэрыя касцёла. Магутныя контрфорсы і тымпан з аркатурным поясам над уваходным рызалітам сведчаць, што кляштар таксама муравалі люблінскія майстры. У гэты час зроблены і калідор, што ідзе ўздоўж паўд. сцяны касцёла і вядзе ў званіцу. У 1618 віленскі біскуп А.Валовіч асвяціў касцёл у гонар Адшукання св. Крыжа. Храм упрыгожаны фрэскамі, сярод якіх гербы яго фундатараў (імі былі Жыгімонт III, Л.Сапега, Г.Валовіч, А.Война, Е.Масальскі і інш.). З 1660-х г. вядома Ларэтанская капліца, якая была прыбудавана да паўн. сцяны касцёла. У 1682 з зах. боку прыбудавана 5-е прасла з капліцамі св. Барбары і Казіміра, да якога з Пд прылягала званіца. Капліца Барбары



Гарадзенскі кляштар бернардзінцаў.



была ўпрыгожана скульптурай у тэхніцы стука. Новы фасад меў завяршэнне ў выглядзе трохвугольнага франтона, быў упрыгожаны пілястрамі, скульптурамі св. Алены, Антонія і Бярнарда ў нішах. У гэты час узведзены паўд. і зах. карпусы кляштара, якія разам з усх. корпусам і касцёлам утваралі замкнёны дзядзінец. У 1682 у кляштары было 30 манахаў. Пасля пажару 1753 перабудавана званіца, якая набыла 2 новыя верхнія ярусы з калонамі і высокімі аконнымі праёмамі. Пасля пажару 1782 значна аднаўлены інтэр'еры. У 1788 пастаўлены комплекс з 12 алтароў, капліца св. Барбары пераабсталявана ў Ларэтанскую, а капліца св. Казіміра – у капліцу св. Барбары. Касцёл размаляваны новымі фрэскамі (мастак – базыльянін А.Грушэцкі). Паміж 1780 і 1790 да фасада прыбудаваны невял. чатырохвугольны бабінец. Касцёл дзейнічае. У 1853 кляштар зачынены, з 1990 тут працуе Вышэйшая духоўная семінарыя.

*Літ.*: Кулагін А. Дыханне пластыкі неастылае: Скульптурны ансамбль бернардзінскага касцёла ў Гродне // Мастацтва Беларусі. 1988. № 5; Габрусь Т. Касцёлы, фундаваныя каралямі // Наша вера. 1999. № 1; Kuty D.J. Etapy budowy pobernardyńskiego kościoła w Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарадзенскі кляштар брыгітак.** Заснаваны ў 1634 вял. маршалкам ВКЛ Крыштофам Весялоўскім і яго жонкай Аляксандрай з Сабескіх. У 1636 прыбылі 8 манашак з Любліна. Першая настаяцельніца — Ганна Сабеская (сястра Аляксандры). У 1638 і 1643 кляштар атрымаў прывілеі ад караля Уладзіслава IV. Першапачаткова касцёл і кляштар былі драўляныя. Мураваны касцёл Звеставання Дзевы Марыі меў сваім прататыпам касцёл у Алыцы, у асноўным пабудаваны да 1642, асвячоны ў 1651 віленскім біскупам Е.Тышкевічам. Акрамя касцёла ў комплекс пабудоў уваходзілі 2-павярховы жылы корпус, 3 карпусы якога разам з касцёлам утваралі дворык, гаспадарчыя будынкі (у т.л. драўляны лямус канца 18 ст.), званіца (пабудавана паміж 1783 і 1795, разабрана ў 1960-я г.), мураваная агароджа з брамамі. 1-нефавы касцёл мае невял. памеры (унутры 30,6 × 10,7 м), перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Паўцыркульная апсіда пераходзіць у асн. аб'ём і накрыта адным з ім высокім дахам. Галоўны 2-вежавы фасад упрыгожаны пілястрамі з карынфскімі капітэлямі. Яго ніжні ярус прарэзаны дзвярнымі і аконнымі праёмамі, у бакавых частках размешчаны арачныя нішы для скульптур. Зверху праходзіць раскрапаваны антаблемент, фрыз якога размаляваны ў тэхніцы сграфіта. Фасад завершаны аднолькавымі па вышыні франтонам і 2-яруснымі вежамі. Хоць кляштар быў разлічаны на 30 манашак, часам іх колькасць даходзіла да 40. Кляштар скасаваны ў 1842 з дазволам манашкам застацца. З 1908 тут жылі манашкі-назарэцянкі. У 1950—90 кляштар не дзейнічаў. У 1992 касцёл нанава асвячоны арцыбіскупам Т.Кандрусевічам.

*Літ.*: Tołłoczko W. Brygidki grodzieńskie: (Studyum historyczno-kulturalne) // Dwutygodnik diecezjalny wileński. 1914. № 16—24; 1915. № 5—9; Мараш Я.Н. Кляштар св. Брыгіты // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 4; Цейтлина М.М., Ветер Э.И. Исследование и реставрация сграффито бригитского костела в Гродно // Художественное наследие. 1984. № 9; Вецер Э. Гродзенскія зграфіта // Мастацтва Беларусі. 1989. № 12; Borkowska M. Miscellanea brygitańskie: Grodno // Nasza przeszłość. 1996. T. 85; Martusewicz J. Z dziejów sióstr nazaretanek w Grodnie // Wilno i kresy północno-wschodnie. Białystok, 1996. T. 2; Kałamajska-Saeed M. Kościół Brygidek w Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000.

***Валерый Пазднякоў.***



**Гарадзенскі кляштар брыгітак.** Касцёл Звеставання Дзевы Марыі.

**Гарадзенскі кляштар дамініканцаў.** Заснаваны ў 1633 падкаморым ВКЛ Фрыдрыхам Сапегам і яго жонкай Крысцінай. Мураваны, з 2-вежавым фасадам, касцёл Дзевы Марыі Ружанцавай асвячоны ў 1726. У храме было 8 разьбяных алтароў, арган на 10 галасоў, бронзавы бюст караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У мураваным 2-павярховым корпусе кляштара размяшчалася школа. Сярод прыбораў кабінетаў былі 5 электрычных машын, магнітныя вагі, тэлескоп, мікраскоп, барометры і інш. Мелася хімічная лабараторыя, у б-цы было больш за 10 тыс. тамоў. У 1832 кляштар зачынены, будынкі не захаваліся.

*Літ.*: Маліноўская Т. З гісторыі пабудовы і дзейнасці Гродзенскага кляштару дамініканаў // Гарадзенскія запісы. Гародня, 1993. Вып. 1.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Гарадзенскі кляштар кармелітаў босых.** Кармеліты асталяваліся ў Гародні

каля 1650 паблізу уніяцкай царквы Чэснага Крыжа (на правым беразе Нёмана каля моста цераз раку). Відаць, у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* кармеліты занялі пакінутую царкву, а пасля вайны адбудавалі яе. У 1676 кашталян віленскі, староста гарадзенскі Анджэй Францішак Катовіч з жонкай Барбарай Цэцыліяй фундавалі кармеліцкі кляштар пры былой царкве, аднак праз некалькі гадоў ён згарэў. Новы мураваны кляштар паўстаў на супрацьлеглым баку вуліцы. У 1738 узведзены мураваны касцёл Узвіжання св. Крыжа, асвячоны ў 1765. Мяркуецца, што аўтарам праекта быў Ю.*Фантана*. Касцёл – прамавугольная ў плане 3-нефавая базіліка з 6 унутр. слупамі. Да заходняга (апсіднага) тарца прылягаў 2-павярховы корпус сакрыстыі і скарбніцы. Гал. фасад бязвежавы, 3-ярусны, з фігурным шчытом наверсе, упрыгожаны парнымі пілястрамі, нішамі са скульптурамі. 2-і і 3-і ярусы мелі па баках вял. валюты. У цэнтры фасада быў балкон для аркестра. Трохпавярховы кляштарны корпус тарцом далучаўся да сакрыстыі касцёла. Кляштар скасаваны ў 1843. Будынкі разабраны ў пач. 20 ст.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Монастыри XVIII в. с безбашенными храмами в Белоруссии // Архитектурное наследство. М., 1985. Вып. 33; Слюнькова И.Н. Монастыри восточной и западной традиций: Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002; Gordziejew J. Socjotopografia Grodna w XVIII wieku. Toruń, 2002; Страчаная спадчына. 2 выд. Мн., 2003. С. 138—140.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарадзенскі кляштар францысканцаў.** Заснаваны ў 1635 упіцкім старастам Яўстахіем Курчам з жонкай Зузанай з Тышкевічаў. Фундацыя на падараванне кляштару фальварка Панямонь зацверджана каралём Уладзіславам IV у 1639. У 1643 францысканцам вылучаны пляц за Нёманам на пабудову кляштара. Касцёл Маці Божай Анёльскай згадваецца ў 1675 як драўляны, мураваны ўпершыню ўпамінаецца ў 1700. Асвячоны у 1744 біскупам інфлянцкім Ю.Пузынам, пасля пажару і аднаўлення ў 1761 — біскупам-суфраганам беларускім Ф.Тавянскім. Званіца пабудавана ў 1753, да сярэдзіны 18 ст. адносіцца і будаўніцтва корпуса кляштара. Фундатарамі алтароў і аргана былі жонка кашталяна мсціслаўскага К.Лоза (з Юндзілаў) і новагародскі ваявода Радзівіл. Касцёл — 3-нефавая 6-слуповая базіліка з паўкруглай апсідай, па баках вял. прэсбітэрыя размешчаны сіметрычныя сакрысты. Гал. фасад касцёла бязвежавы, 3-ярусны, з трохвугольным шчытом на франтоне. Яго аздабленне сціплае і складаецца толькі з пілястраў і 2 паўцыркульных ніш з размалёўкай. Злева ў адну лінію з фасадам прыбудавана 3-ярусная званіца, ніжні чацвярык якой аб'яднаны агульнай цягай антаблемента з гал. фасадам і бакавымі нефамі. 2-і і 3-і ярусы перабудаваны ў 18 ст. і больш насычаны барочнымі архітэктурнымі дэталямі. Парафія пры касцёле ўтворана ў 1744. Акрамя касцёла і кляштарнага корпуса мураванымі былі стайня і бровар. Бібліятэка налічвала 533 тамы (1804). Кляштар скасаваны ў 1832, касцёл застаўся як парафіяльны.

*Літ.*: Гардзееў Ю. З гісторыі помнікаў францішканскай парафіі г. Гродна // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1997. Вып. 4; Яго ж. Socjotopografia Grodna w XVIII wieku. Toruń, 2002; Слюнькова И.Н. Монастыри восточной и западной традиций: Наследие архитектуры Беларуси. М., 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарадзенскі манастыр Раства Багародзіцы.** Заснаваны ў 1632 як уніяцкі жаночы манастыр. Уніяцкі мітрапаліт А.Сялява загадаў перадаць базыльянкам «на вечныя часы пляцы, якія пустуюць, незаселеныя, ляжаць направа ад Прачысценскай царквы і на захад ад яе, аж да каралеўскага замка». У 1647 пажар вынішчыў значную частку горада, а разам з ёй і Прачысценскую царкву. Пазней базыльянкі пабудавалі тут драўляны храм Раства Багародзіцы і жылыя памяшканні. У 1720 манастыр зноў знішчаны пажарам. У тым жа годзе пачалося будаўніцтва мураванай царквы і жылых памяшканняў пад кіраўніцтвам архітэктара Ю.*Фантаны* на сродкі уніяцкага мітрапаліта Л.Кішкі. Нягледзячы на пашкоджанні ад пажару 1754, будаўніцтва было закончана, у 1756 манастыр асвячоны. У 1843 пераўтвораны ў праваслаўны. У 1848 царква адрамантавана, яе новы іканастас размяшчаўся ва ўсх. частцы, а ўваход зроблены ў былой алтарнай (заходняй) частцы. У 1860-я г. прыбудавана царква св. Сергія Раданежскага. У 1891 у зах. частцы манастырскага комплексу пабудаваны 2-павярховы гасп. корпус. У 1-ю сусв. вайну царква пашкоджана. Манастыр дзейнічаў да 1960. Манашкі з яго выселены ў Жыровічы. У 1977—92 у адрэстаўрыраваных памяшканнях манастыра размяшчаўся Бел.



**Гарадзенскі кляштар францысканцаў**. Касцёл Маці Божай Анёльскай.





**Гарадзенскі манастыр Раства Багародзіцы**.

дзярж. музей гісторыі рэлігіі. У 1992 правасл. жаночы манастыр аднавіў сваю дзейнасць.

*Літ.*: Гродненский Свято-Рождество-Богородицкий женский монастырь. М., 1999.

*Ларыса Карнілава.*

**Гарадзенскі манетны двор**. У час праўлення Станіслава Аўгуста Панятоўскага Скарбовая камісія ВКЛ у 1768 даручыла адміністратару Кракаўскага і Варшаўскага манетных двароў П.М.фон Гарцэнбергу-Садагурскаму пабудаваць і забяспечыць патрэбнымі механізмамі Г.м.д. для вырабу меднай манеты Рэчы Паспалітай. Але ў 1769 рашэнне скасавана яшчэ да пачатку працы Г.м.д. З Г.м.д. таксама традыцыйна звязваюць выпуск талера 1793 Таргавіцкай канфедэрацыі, але дакументальна гэта не пацверджана.

*Літ.*: Kałkowski T. Tysiąc lat monety polskiej. 3 wyd. Kraków, 1981; Filipow K. Mennictwo Wielkiego Księstwa Litewskiego (XV—XVIII) // Pieniądz i mennictwo Wielkiego Księstwa Litewskiego. Białystok, 1987.

*Іван Сінчук.*

**Гарадзенскі Новы замак**, каралеўская рэзідэнцыя і месца пасяджэння соймаў Рэчы Паспалітай у Гародні. Рашэнне пра будаўніцтва прыняў сойм 1726, пасля чаго, відаць, пачаліся будаўнічыя работы. Найб. інтэнсіўна будаўніцтва вялося ў 1737—40. Упершыню ў Г.Н.з. сойм сабраўся ў 1744. Размешчаны на ўзгорку на правым беразе Нёмана насупраць *Гарадзенскага Старога замка* і злучаецца з ім мостам. Аўтар праекта, відаць, І.Х.Кнёфль. Хоць палацавы комплекс не меў абаронччых умацаванняў, яго называлі замкам, бо ён выконваў рэзідэнцыяльныя і прадстаўнічыя функцыі. Складаўся з асноўнага корпуса, да якога далучаліся 2 крылы, службовых і гаспадарчых пабудоў. П-падобны ў плане 2-павярховы палац меў мансардавы дах. Гал. памяшканнямі былі Сенатарская і Пасольская залы, авальны салон з купалам, упрыгожаны размалёўкай, размаляванымі плафонамі, панэлямі, залачонай лепкай у тэхніцы стука, скульптурай. Рызаліт у цэнтр. частцы аздоблены 4 парамі пілястраў, лепкай у прасценках і на тымпане трохвугольнага франтона. Пад уплывам французскай архітэктуры фасады маюць сціплае аздабленне: адзінарныя і падвойныя лапаткі, прамавугольныя нішы. У 1752 на адной восі з салонам з тыльнага (паркавага) боку прыбудавана капліца (арх. І.Д.Яўх), накрытая вальмавым дахам, з шатровай званіцай. Збоку стаяў доўгі будынак кухні, на 2-м паверсе якой размяшчаліся памяшканні для каралеўскай гвардыі. Асобна стаялі будынкі кардэгардыі і каралеўскай кухні. Гал. дзядзінец апяразвала мураваная агароджа з брамай (арх. К.Ф.Пёпельман), упрыгожаная наверсе фігурамі сфінксаў з сядзячымі на іх пуцці (на ўзор Версаля). Пры каралю Станіславе Аўгусце Панятоўскім Г.Н.з. перабудаваны. На яго рамонт сойм 1768 выдзеліў 300 тыс. злотых. Рэканструкцыяй палаца займаўся архітэктар Ю.Сака. У 19—1-й пал. 20 ст. ў палацы размяшчаўся вайсковы шпіталь. У 1944 значна разбураны,



**Гарадзенскі Новы замак**. Уезд з боку Старога замка. Гравюра паводле малюнка Н.Орды. Сярэдзіна 19 ст.



**Гарадзенскі Новы замак**. Галоўны фасад каралеўскага палаца. Малюнак. Каля 1752.

пасля перабудовы (1952) у ім размяшчаўся абком КПБ, пасля 1991 — частка экспазіцыі Гродзенскага дзярж. гісторыка-археалагічнага музея і абласная навук. б-ка імя Я.Ф.Карскага.

*Літ.*: Szymański S. Pałac królewski w Grodnie // Rocznik Białostocki. Białystok, 1966. T. 6; Kowalczyk J. Pałace i dwory póżnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Кітурка Ю.В., Царук В.М. Гродзенскія замкі: Гісторыка-архітэктурны нарыс. Слонім, 2003.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарадзенскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Утвораны ў канцы 14 ст. ў працэсе ператварэння былых удзельных княстваў у намесніцтвы, якое ажыццяўляў вял. князь Вітаўт. Папярэднікам В.п. было *Гарадзенскае княства*, адно з асабістых уладанняў Вітаўта, а раней яго бацькі Кейстута. Гарадзенская харугва ўпамінаецца ў складзе войска ВКЛ у час Грунвальдскай бітвы 1410. З 1413 Г.п. уваходзіў у *Троцкае ваяводства*. Пасаду гарадзенскіх намеснікаў (старастаў) у 1430-я г. займалі Манівід (Мікола), Івашка (Давойнавіч?), у 1440-я г. — Андрэй Давойнавіч, у 1450-я — Пётр Лялюш і Алехна Судзімонтавіч, потым Станька Судзівоевіч (1463—76), Ян Кучук (1478), Ян Насутавіч (1484), кн. А.Ю.Гальшанскі (1485—1504), Я.Ю.Забярэзінскі (1505—08), С.П.Кішка (1508—13), Ю.Радзівіл (1514—41). У 1542—62 Гарадзенская воласць з замкам належала каралеве Боне, затым намеснікам стаў Р.А.Хадкевіч (1562—72). Зах. і паўн. часткі павета займалі вялізныя слабазаселеныя пушчы. Насельніцтва канцэнтравалася вакол Гародні і ў паўд.-ўсх. частцы павета, уздоўж Нёмана і Свіслачы. У 15—пач. 16 ст. не менш паловы тэр. павета (але найменш населеныя землі) займалі дзярж. воласці: уласна Гарадзенская, Крынская, Навадворская, Ожская, Пераломская і інш. З магнацкіх маёнткаў буйнейшымі былі вотчыны паноў Хадкевічаў (ахоплівалі паўд. частку павета: Бераставіца, Заблудаў, Супрасль, Хорашч і інш.), Квасоўка (належала панам Насутам, Забярэзінскім, Іллінічам), Індура (Давойнам, Радзівілам), Сідра (Валовічам). У пач. 16 ст. ўзамен маёнткаў у страчанай Смаленскай зямлі Сапегам была падаравана Лунна, а князям Крошынскім — Дубна. Шляхецкае апалчэнне Г.п. ў 1528 налічвала каля 320 коннікаў (з іх палову прадстаўлялі дробныя шляхціцы, якія ішлі ў войска асабіста, без слуг). У выніку адм. рэформы 1566 да Г.п. была далучана частка Мерацкага пав. з Бержнікамі, Вяйсеяй і Ляйпунамі (у сучаснай Літве і Польшчы). З гэтага часу плошча Г.п. складала каля 11,7 тыс. км², з іх каля 5 тыс. км² прыпадае на тэр. сучаснай Беларусі, каля 6 тыс. км² — Польшчы, каля 0,7 тыс. км² — Літвы. Першым павятовым маршалкам




Аўтар карты М.Ф. Спірыдонаў



стаў І.І.Валовіч, суддзёй земскім — кн. І.Ф.Масальскі, падсудкам — І.Макаравіч. У 1567 Гарадзенская харугва налічвала 714 коннікаў і 29 пешых шляхціцаў, увогуле з маёнткаў Г.п. выстаўлялася (з улікам магнатаў) каля 1000 коннікаў. У 1589 на значнай частцы Г.п. ўтворана *Гарадзенская эканомія*. У сярэдзіне 17 ст. ў Г.п. налічвалася 25 тыс. дымоў (што адпавядае колькасці насельніцтва каля 170 тыс. чал.), на 1667 засталося 17,7 тыс. дымоў. У 1690 у павет уваходзілі 31 парафія: Азерская (Язерская), Бержнікаўская, Бераставіцкая, Васількаўская, Віжайнская, Вяйсейская, Гарадзенская, Гожская, Дамброўская, Заблудаўская, Індурская, Каменская, Карыцінская, Квасоўская, Крынская, Кузніцкая, Ліпская, Лунненская, Ляйпунская, Мастоўская, Навадворская, Одальская, Пунская, Пераросльская, Рэпленская, Сакалянская, Сакольская, Урдамінская, Хоращкая, Філіпаўская, Эйсмонтаўская, а таксама часткі Воўпенскай і Ялаўскай парафій з цэнтрамі ў Ваўкавыскім пав. Буйныя шляхецкія ўладанні ахаплівалі каля 41% дымоў, дробныя — 33%, дзяржаўныя — 22%, царкоўныя — менш за 4%. Колькасць насельніцтва ў апошняй чвэрці 18 ст. складала каля 240—250 тыс. чал. У 1793 павет пераўтвораны ў *Гарадзенскае ваяводства*.

*Літ.*: Jakubowski J. Powiat grodzieński w w. XVI // Prace Komisji Atlasu historycznego Polski. Kraków, 1935. Z. 3; Яго ж. Przykład zmienności granic administracyjnych na Litwie w w. XVI // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10; Urwanowicz J., Woltanowski A. Struktura majątkowa i społeczna ludności powiatu grodzieńskiego w ostatnich latach Rzeczypospolitej szlacheckiej // Kwartalnik historii kultury materialnej. 1988. № 1.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Гарадзенскі сойм 1793**, апошні сойм Рэчы Паспалітай. Праходзіў у Гародні 17 чэрв.—23 лістапада. Быў абвешчаны надзвычайным, скліканы для зацвярджэння канвенцый аб *другім падзеле Рэчы Паспалітай*. Расія і Прусія, дамовіўшыся аб умовах 2-га падзелу Рэчы Паспалітай, імкнуліся атрымаць ад сойма яго фармальнага зацвярджэння, а таксама дамагчыся адмены *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Выбары на сойм адбыліся 27.5.1793. Пад кантролем *Таргавіцкай канфедэрацыі* і рас. пасла Я.Я.Сіверса было абрана каля 140 паслоў, частка насуперак іх волі. Амаль усе сенатары сойм байкатавалі. Па запатрабаванні Таргавіцкай канфедэрацыі работа сойма пачалася 21 чэрвеня. Таргавічане складалі большасць і падзяляліся на 2 групоўкі. Першая гуртавалася вакол караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага і імкнулася да захавання цэнтралізаванай дзяржавы. Другая, «літоўская», гуртавалася вакол братоў біскупа інфлянцкага Ю.Касакоўскага і гетмана Ш.Касакоўскага і выступала за поўную самастойнасць ВКЛ у Рэчы Паспалітай. Касакоўскія лічылі магчымай нават адмову ВКЛ ад уніі з Каронай і спробу злучэння ВКЛ з Рас. імперыяй. Рас. імператрыца Кацярына II, не жадаючы абвастрэння адносін з Аўстрыяй і Прусіяй, запатрабавала ад Сіверса не заахвочваць сепаратысцкія памкненні групоўкі Касакоўскіх. Сіверс прапанаваў праект дагавора, паводле якога да Рас. імперыі павінна была адысці значная частка паўн.-ўсх., цэнтр. і паўд.-зах. Беларусі (прыкладна па лініі Друя—Пінск). Паміж Рас. імперыяй і Рэччу Паспалітай устанаўліваўся чарговы «вечны, непарушны мір», манарх Рэчы Паспалітай і яго пераемнікі адмаўляліся ад усіх правоў на тэрыторыі, якія адыходзілі да Рас. імперыі, рас. імператрыца ў сваю чаргу адмаўлялася за сябе і сваіх пераемнікаў ад прэтэнзій на якія-небудзь набыткі за кошт тэр. Рэчы Паспалітай. Соймавая дэпутацыя падпісала дагавор 22 ліп., сойм ратыфікаваў яго 17 верасня. Падпісанне дагавора, у тэкст якога паслы сойма не маглі ўносіць змены, адбывалася ў абставінах непрыхаванага прымусу, пагроз і дэманстрацыі вайсковай сілы. Некат. паслы былі затрыманы пад хатнім арыштам, іншым пагражалі канфіскацыяй маёнткаў. Яшчэ большае непрыманне паслоў сойма сустрэў праект дагавора з Прусіяй, якая прэтэндавала на Гнезненскае, Пазнанскае, Калішскае, частку Кракаўскага ваяв., гарады Гданьск і Торунь. 23 ліп. Сіверс загадаў 2 рас. батальёнам грэнадзёраў акружыць каралеўскі замак і не выпускаць з соймавай залы паслоў і караля Рэчы Паспалітай, пакуль не будзе прыняты «прускі трактат». Каля ўвахода напярэдадні былі пастаўлены гарматы, 4 найб. актыўныя паслы апазіцыі былі арыштаваны і высланы з Гародні. Пратэстуючы супраць гвалту, паслы вырашылі не ўдзельнічаць у абмеркаванні праекта дагавора. У ноч на 24 вер. адбылося «нямое» пасяджэнне сойма, на якім ніхто з паслоў не ўзяў слова. Маршалак сойма С.Бялінскі вытлумачыў гэтае маўчанне як згоду паслоў з умовамі дагавора. 16 кастр. быў заключаны «саюзны» дагавор Рэчы Паспалітай з Рас. імперыяй, паводле якога ўрад апошняй меў права ўводзіць і трымаць свае войскі на тэр. Рэчы Паспалітай, што стварыла ўмовы для *трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай*. Сойм зацвердзіў новае дзярж. ўпарадкаванне і адм.-тэр. падзел Рэчы Паспалітай. Былі скасаваны ўсе рэформы *Чатырохгадовага сойма 1788—92*. Значна была абмежавана роля сойма, які меліся збіраць раз у 4 гады. Мяшчане страцілі паліт. і інш. правы, прызнаныя за імі ў 1791 (за выключэннем права асабістай недатыкальнасці і права набываць зямельныя ўладанні). Былі пацверджаны ўсе ранейшыя прывілеі шляхецкага саслоўя. Пацвярджалася унія ВКЛ і Польшчы. Сойм прыняў рашэнне аб роспуску Таргавіцкай канфедэрацыі з 1.10.1793.

*Літ.*: Wegner L. Sejm grodzieński ostatni. Poznań, 1866; Иловайский Д. Гродненский сейм 1793: Последний сейм Речи Посполитой. М., 1870; Wąsicki J. Konfederacja Targowicka i ostatni sejm Rzeczypospolitej z 1793 roku: Studium historyczno-prawne. Poznań, 1952; Volumina Legum. T. 10. Poznań, 1952; Trebicki A. Opisanie sejmu... roku 1793 w Grodnie; O rewolucji roku 1794. Warszawa, 1967; Бардах Ю., Леснодорский Б., Пиетрчак М. История государства и права Польши: Пер. с пол. М., 1980; Francić M. Insurekcja kościuszkowska. Kraków, 1988; Юхо Я.А. За вольнасць нашу і вашу: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1990; Палуцкая С. Апошні сейм Рэчы Паспалітай // Бел. мінуўшчына. 1995. № 4; Анішчанка Я. Апошні сейм Рэчы Паспалітай: Дыярыуш Гродзенскага сейма 1793 года, прысутным сведкам Людвікам Гінетам падчас сесій пісаны // Архівы і справаводства. 1999. № 2—6; Яго ж. М.Г.Бародзіч: Прапановы на Гарадзенскі сойм 1793 г. // Спадчына. 2002. № 5—6; Яго ж. Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мн., 2003.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Гарадзенскі Стары замак.** Існаваў у 12—17 ст. у Гародні. Размяшчаўся ў сутоках рэк Гараднічанка і Нёман, на высокім правым беразе апошняга. Напачатку меў выгляд земляных умацаванняў з вастраколам і зрубамі-гароднямі. У 2-й пал. 12 ст. ўзведзена плінфавая мураваная сцяна і, відаць, вежы, што было унікальнай з'явай у тагачасным замкавым будаўніцтве Беларусі. У 2-й пал. 13 ст.



**Гарадзенскі Стары замак** у 14–16 ст. Рэканструкцыя.

з палявога ўсх. боку ўзведзена круглая вежа — мураваны «стоўп». У выніку шматлікіх аблог крыжакамі (1284, 1296, 1306, 1311, 1312, 1328, 1361, 1363, 1373, 1375, 1377, 1390, 1393 і 1402) асобныя часткі мураваных умацаванняў паступова былі разбураны і заменены драўлянымі. На дзядзінцы месціліся драўляныя жылыя і гасп. пабудовы, мураваны княжацкі палац і плінфавая Ніжняя царква (пабудавана ў 1130-я г.), пазней яна была



**Гарадзенскі Стары замак** у 16–18 ст. Рэканструкцыя.

разбурана, на мяжы 13—14 ст. на гэтым месцы паставілі *Гарадзенскую Верхнюю царкву*. Пасля пажару ў 1398 плінфавыя сцены замка заменены сценамі з валуноў і буйнапамернай брусковай цэглы. Замак набыў форму няправільнага трохвугольніка. Сцяна, звернутая да Нёмана, мела даўж. 120 м, з боку Гараднічанкі 90 м, з боку горада складалася з 2 частак — 46 і 24 м. Таўшчыня сцен дасягала 2,5—3 м. У замку было 5 вежаў. Вежа-брама з турмой пад ёй мела пад'ёмны мост цераз сухі роў, які аддзяляў яе ад гар. пасада. У верхняй частцы брамы знаходзіліся навіслыя байніцы-абламы, за зубцамі — баявая пляцоўка. 2-я вежа стаяла на Пд ад першай, 3-я на зах. баку гары, на мысе па-над Гараднічанкай, 4-я — на паўн.-ўсх. напрамку, з боку горада, 5-я — у заломе муроў з усх. боку, каля ўязной вежы. 4 вежы былі квадратныя ў плане (каля 12 × 12 м), 5-я — круглая. Паміж 4-й і 5-й вежамі знаходзіўся палац вял. князя Вітаўта, пабудаваны ў канцы 14—пач. 15 ст. Будынак (45 × 15 м) быў 2-павярховы і меў тоўстыя сцены. Пакоі ў ім размяшчаліся ў адзін рад. У звернутай у бок горада сцяне вокны 2-га паверха мелі выгляд вузкіх байніц. У 1580 у час будаўніцтва новага палаца Стафана Баторыя вежу-браму і «стоўп» разбурылі. Пазней былі знесены або надбудаваны з дрэва астатнія вежы. Замкавыя ўмацаванні канчаткова зніклі пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Даследаванні Г.С.з. праводзілі ў 1920—30-я г. Ю.Ядкоўскі і З.Дурчэўскі, у 1948—49 М.М.Варонін, у 1971, 1986—88 М.А.Ткачоў, Я.Г.Звяруга, А.А.Трусаў, П.А.Рапапорт, А.К.Краўцэвіч і інш.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.

***Міхась Ткачоў.***

**Гарадзенскі тэатр Тызенгаўза**, оперна-балетная трупа гарадзенскага старасты А.*Тызенгаўза* ў Гародні ў 1769—80. Да 1774 невял. ансамбль інструменталістаў і вакалістаў, пазней сталы калектыў (у 1780 больш за 70 чал., уключаючы капэлістаў) са значным оперным і балетным рэпертуарам з твораў ням., франц. і італьян. аўтараў. У 1774 пераважалі італьян. артысты, запрошаныя ў Гародню прыдворным скрыпачом і капельмайстрам Л.Сітанскім. У 1776 тэатр канчаткова сфарміраваўся. У ім працавалі 7 спевакоў і 8 спявачак, у т.л. вядомыя італьян. вакалісты Дж.Кампанучы, Г. дэ Бернуцы Давія і К.Банафіні (усе пазней артысты італьян. оперы С.-Пецярбурга), Я.Д.Гіблер, А.Бароні, а таксама М.Сітанская, Д.Малевіч, Г.Змітровіч і інш. З 1778 у пастаноўках удзельнічалі вучні *Гарадзенскай музычна-тэатральнай школы Тызенгаўза*, прыгонныя танцоўшчыкі, спевакі і інструменталісты. Балетная трупа ў 1779—80 уключала больш за 30 чал. Балетмайстры Г.Петынеці (1774—79; ставіў балеты на ўласныя лібрэта, танцаваў гал. партыі), з 1779 К.А.Марэлі і яго жонка, педагог і першая танцоўшчыца Г.Марэлі (Саламоні). Сярод артыстаў Л.Петынеці (пасля 1775), прыгонныя М.Адольская, А.Бжазінскі, Е.Валінскі, А.Дарэўская, Р.Лаўцэвіч, М.Малінская, Д.Пякарская-Сітанская, М.Рымінскі, М.Чаклінская, якія пазней атрымалі вядомасць на варшаўскай сцэне. У 1778 у тэатры пастаўлены опера «Магніфік» («Велікапышны») А.Грэтры, балеты «Сялянскі балет» і «Квартэт дудароў», «Другі балет пекараў» (харэаграфія ўсіх Г.Петынеці), камедыя «Севільскі цырульнік» П.Бамаршэ. Паказы суправаджала *Гарадзенская капэла Тызенгаўза*. Пасля закрыцця т-ра балетная трупа працавала ў Паставах (да 1785).

*Літ.*: Музыкальный театр Белоруссии: Доокт. период. Мн., 1990.

***Гурый Барышаў.***

**Гарадзенскі фарны касцёл**, Гарадзенскі касцёл Унебаўзяцця Дзевы Марыі, «фара Вітаўта»,



**Гарадзенскі фарны касцёл**. Фота 1930-х г.



першы каталіцкі храм у Гародні. Пабудаваны пасля 1392, першапачаткова драўляны. На гравюры М.Цюнта 1568 паказаны як прамавугольны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам. На паўд.-ўсх. рагу размяшчалася высокая шмат'ярусная вежа-званіца. У 1551 адрамантаваны паводле загаду каралевы Боны Сфорца. У 1584—87 на яго месцы паводле загаду Стафана Баторыя пабудаваны мураваны касцёл у гатычна-рэнесансавым стылі. У яго стварэнні прымаў удзел архітэктар Дж.М.*Бернардоні*. Касцёл прызначаўся езуітам, аднак пасля смерці Стафана Баторыя яны адмовіліся ад яго фундацыі, і касцёл перададзены парафіі. Выява касцёла зафіксавана на гравюры Т.Макоўскага 1600. Гэта быў 3-нефавы, 8-слупавы будынак памерамі 58,6 × 23 м. Гранёны выцягнуты прэсбітэрый па шырыні і вышыні адпавядаў цэнтр. нефу з чацверыковым уваходным аб'ёмам і сакрыстыяй з паўн. боку бімы. Сцены былі ўмацаваны контрфорсамі, якія ў завяршэнні былі злучаны лучковымі аркамі. У 1655 пашкоджаны маскоўскімі войскамі. Паміж 1661—74 адрамантаваны. У час Паўн. вайны 1700—21 зноў пашкоджаны. У 1753 пацярпеў ад пажару. Адноўлены архітэктарам Іаганам Мёзерам, асвячоны ў 1758. У 1782 зноў адбыўся пажар. Праект аднаўлення распрацаваны архітэктарам Дж.Сака. У 1804 перададзены правасл. царкве. У 1807 асвячоны ў гонар св. Сафіі. Капітальны рамонт 1847 істотна не змяніў яго выгляд. Тады, відаць, апсіду ўпрыгожыў атык, які бачны на малюнку Н.Орды. Рамонты і дабудовы прытвораў рабіліся ў 1850, 1859, 1865, 1870. У 1896—99 перабудаваны ў псеўдарускім стылі (архітэктар М.Чагін), узведзены 5 цыбулепадобных купалоў на высокіх барабанах, з паўн. боку дабудаваны прыдзел, з усходняга — апсіда. У 1920 вернуты католікам. У 1925 О.Сасноўскі зрабіў праект перабудовы касцёла ў гатычным стылі. У 1961 узарваны. У 1992—93 праведзены яго археалагічныя раскопкі (А.Трусаў, А.Краўцэвіч, Р.Акінчыц).

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Приходской костел в Гродно // Проблемы истории архитектуры народов СССР. М., 1977. Вып. 4; Глинник В., Кушнеревич А. Фара Витовта в Гродно // Строительство и архитектура Белоруссии. 1989. № 5; Пашэнда Е., Мілінкевіч А. Фара Вітаўта ў Гродна // Наш радавод. Гродно. 1990. Кн. 2; Краўцэвіч А., Трусаў А., Трусаў І. Вяртанне да людзей: фарны касцёл ў Гродне // Мастацтва. 1993. № 8; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993; Ганецкая І., Трусаў А. Вынікі археалагічнага вывучэння «Фары Вітаўта» у Гродне // Гісторыя Беларусі: новае ў выкладанні. Мн., 1999. Ч. 2; Paszenda J. Kościół pojezuicki (farny) w Grodnie // Paszenda J. Budowle jezuickie w Polsce XVI—XVIII w. Kraków, 2000. T. 2; Габрусь Т.В. Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока. Мн., 2001; Страчаная спадчына. 2 выд. Мн., 2003. С. 71—75.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***



Да арт. **Гарадзенскія дываны**. Габелен з гербам Рэчы паспалітай (абіўка трона Станіслава Аўгуста Панятоўскага). Гародня. 2-я пал. 18 ст.

**гарадзенскія дываны**, вырабы *гарадзенскіх каралеўскіх мануфактур*, заснаваных гарадзенскім старастам А.*Тызенгаўзам* у 2-й пал. 18 ст. Адметныя высокай тэхнікай ткацтва і прыгажосцю. Кампазіцыі Г.д. (ворсавых і шпалер) складаліся з раскіданых па полі букетаў, перавязаных стужкамі, вазонаў і кошыкаў з кветкамі. Колеравая гама звычайна блакітная і залацістая. Раслінны арнамент ворсавых дываноў (букеты руж на светлым фоне) вызначаўся лёгкасцю формаў і гарманічнасцю колеравых спалучэнняў. Французскія майстры, якія працавалі на мануфактурах, пераймалі зах.-еўрап. ўзоры і стваралі дываны ў стылях барока і класіцызму. Часам у Г.д. трапляюцца ўзоры ў мясц. арнаментальных традыцыях.

***Дзіна Трызна.***

**гарадзенскія каралеўскія мануфактуры,** прамысловыя прадпрыемствы, заснаваныя ў 1760—80-я г. ў Гарадзенскай і Берасцейскай каралеўскіх эканоміях па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам надворнага падскарбія ВКЛ і генеральнага адміністратара эканомій А.*Тызенгаўза*.У папярэдні час эканоміка ВКЛ перажыла 2 глыбокія гаспадарчыя крызісы, выкліканыя *вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночнай вайной 1700—21*. Аднаўленне да сярэдзіны 18 ст. сельскай гаспадаркі разам з заканадаўчымі новаўвядзеннямі канвакацыйнага сойма 1764 садзейнічалі ўсталяванню новых эканам. адносін у ВКЛ. «Вялікі мануфактурны план» Тызенгаўза меў на мэце за кароткі тэрмін арганізаваць у аграрнай краіне, якой было ў 2-й пал. 18 ст. ВКЛ, развітую прамысловасць. Будаўніцтва мануфактур было арганічнай часткай цэлай сістэмы эканам. мерапрыемстваў Тызенгаўза, якая ўключала



таксама правядзенне аграрнай рэформы (гл. *Тызенгаўза рэформа*) і стварэнне разгалінаванай сістэмы сухапутных і водных шляхоў для паляпшэння гандлю. Усяго было пабудавана больш за 20 прамысл. прадпрыемстваў. Цэнтрам мануфактурных пераўтварэнняў стала Гародня, важны эканам. і адм.-паліт. цэнтр ВКЛ, рэзідэнцыя адміністратара каралеўскіх эканомій. У Гародні і яе прадмесці *Гарадніцы* пабудаваны 15 мануфактур: суконная (1766—94), палатняная (1767—84), шаўкаткацкая (1768—84), панчошная (1768—80), залататкацкая (1768—83), васковых свечак (1768—79), фарбавальная (1769—79), карэтна-экіпажная (1770—83), ігральных карт (1773—1780-я г.), пацеркавая (1773—1780-я г.), карункавая (1777—83), гарматная (1777—83), гарбарная (1777—94), металічных вырабаў (1779—1780-я г.), камлотная (1777—1780-я г.). У мяст. Азёры (24 км ад Гародні) заснавана суконна-капялюшная мануфактура, а ў в. Ласосна (3 км ад горада) — тонкасуконная. Астатнія прадпрыемствы паўсталі ў вёсках Рэчыца і Руда Берасцейскай эканоміі (суконная мануфактура, жалезная гута, лесапільня, шліфавальня). Для арганізацыі мануфактур быў узяты крэдыт у 10 мільёнаў злотых у Галандскім банку. Фінансавай крыніцай была таксама сельская гаспадарка каралеўскіх эканомій, якая пасля правядзення аграрнай рэформы і аднаўлення фальваркаў амаль у 3 разы павялічыла даходы каралеўскага скарбу.

Найб. буйнымі прадпрыемствамі гарадзенскага прамысл. цэнтра былі шаўкаткацкая (выкарыстоўваліся 62 станкі) і суконная (толькі ў ткацкім аддзяленні было 40 станкоў) мануфактуры. Станкі прывозіліся з-за мяжы, у дакументах яны звычайна пазначаліся як «машыны ангельскія». З-за мяжы прывозілася і 70% сыравіны, 25% куплялася на мясц. рынках і 5 % пастаўляла Гарадзенская эканомія (воўну, дрэва, вугаль і інш.). Асартымент тавараў, якія выпускаліся на мануфактурах, быў вельмі разнастайны. На шаўкаткацкай выраблялiся шаўковыя тканіны, на палатнянай — муслін, батыст, палатно для абрусаў і сурвэтак; на металаапрацоўчай — цвікі, рыдлёўкі, напільнікі, іголкі, шпількі і інш., на залататкацкай і карункавай пралі каштоўныя карункі і выраблялі залатую і сярэбраную ніткі; мануфактура пацерак выпускала таксама шкляны посуд. Пераважную большасць прадукцыі мануфактур складалі прадметы раскошы, асноўнымі пакупнікамі іх былі каралеўскі двор і войска.

Агульная колькасць рабочых у 1777 складала больш за 3 тыс. чал. У асноўным выкарыстоўвалася бясплатная праца каралеўскіх сялян, хаця ўжывалася і практыка вольнага найму. Рабочы дзень доўжыўся з 5 гадзін раніцы да 8 вечара з перапынкамі 1—1,5 гадзіны на абед і вячэру. Для падрыхтоўкі прафесійных рабочых была створана школа для сял. дзяцей, у якой праходзілі навучанне 300 хлопчыкаў і 100 дзяўчынак. Кіравалі прадпрыемствамі высокакваліфікаваныя майстры з Прусіі, Францыі, Галандыі (усяго каля 70 чал.). У кантрактах, якія заключаліся з майстрамі, акрамя асноўнага абавязку — добрасумленнай працы — ад іх патрабавалася аб'яднанне вакол сябе вучняў, увядзенне іх у таямніцы прафесійнага мастацтва і навучанне «належна і дасканала» для якаснай працы на мануфактурах. Такім чынам, прамысловыя прадпрыемствы набывалі яшчэ характар прафесійных школ, якія павінны былі пад кіраўніцтвам інструктараў-практыкаў падрыхтаваць высокакваліфікаваных работнікаў і майстроў.

У 1776 у Гародні адчынена Камерцыйная кантора, якая займалася рэгуляваннем пытанняў экспарту-імпарту, і Гандлёвая кантора, гал. задачай якой была арганізацыя продажу тавараў, што выраблялiся на гарадзенскіх мануфактурах. Аднак расходы на арганізацыю вытворчасці значна перавышалі даходы ад продажу тавараў. Гэта тлумачылася шэрагам прычын: высокая плата замежным майстрам і неабходнасць набываць абсталяванне і сыравіну за мяжой, а таксама пагашэнне крэдытаў, што рабіла сабекошт мясцовай прадукцыі значна большым, чым прывезенай з-за мяжы; магчымасці збыту тавараў, асабліва прадметаў раскошы, былі абмежаваны на ўнутраным рынку, да таго ж створаныя некваліфікаванай прымусовай працай каралеўскіх сялян яны саступалі па якасці замежным аналагам і ўвогуле былі неканкурэнтаздольнымі; смелае карыстанне крэдытамі, на якія будаваліся не толькі прамысловыя прадпрыемствы, але і шэраг устаноў навучальнага і культурнага характару. У выніку прыбытак ад функцыянавання мануфактур не мог пакрыць нават працэнтаў ад узятых пазык. Пасля адхілення Тызенгаўза ад дзярж. пасад (1780) большасць прадпрыемстваў спыніла сваю дзейнасць. Толькі суконная і гарбарная мануфактуры праіснавалі да канца 18 ст. Пасля далучэння да Рас. імперыі дзейнасць некат. мануфактур была адноўлена (палатнянай, шаўкаткацкай, тонкасуконнай, суконна-капялюшнай і інш.). Г.к.м. былі аднымі з першых прадпрыемстваў капіталістычнага тыпу ў ВКЛ. Іх заснаванне садзейнічала ўдасканаленню рамёстваў і стымулявала развіццё розных галін эканомікі ўнутры краіны (авечкагадоўлі, лясной і перапрацоўчай прамысловасці і інш.).

*Літ.*: Korzon T. Wewnętrzne dzieje Polski za Stanisława Augusta (1764—1794). T. 1. Kraków; Warszawa, 1897—98; Гибянский И.Г. Граф Антоний Тизенгауз и гродненские королевские мануфактуры. Пг., 1916; Kula W. Szkice o manufakturach w Polsce XVIII wieku. Warszawa, 1956; Романовский Н.Т. Развитие мануфактурной промышленности в Белоруссии (вторая половина XVIII—первая половина XIX в.). Мн., 1966; Kościałkowski S. Antoni Tyzenhauz, podskarbi nadworny litewski. T. 1. Londyn, 1970.

***Ірына Кітурка.***

**гарадзенскія паясы,** вырабы Гарадзенскай шаўкаткацкай мануфактуры гарадзенскага старасты А. *Тызенгаўза* ў 1760-я—пач. 1780-х г. Запрошаныя сюды



**Гарадзенскі пояс.** 1768—80.



франц. майстры ўзялі за аснову арнаментальную структуру, памер і кампазіцыю *слуцкіх паясоў*, але арнамент сярэдняй часткі і матывы на канцах пояса распрацавалі паводле франц. узораў, якія пазней былі заменены на ўсходнія. Росквіт персіярні (1774—78) звязаны з творчасцю ліёнскага майстра Ф.Селімана. Яго паясы вызначаліся гарманічнасцю кампазіцыі, лёгкім малюнкам, вытанчанасцю каларыту. У 1783 выраб паясоў спыніўся. Г.п. зберагаюцца ў Гіст. музеі ў Маскве і інш.

*Літ.*: Martinaitienė G. Gardino karališkasis šilkinių audinių fabrikas ir jo kontušinės juostas // Menotyra. 1997. № 3.

*Дзіна Трызна.*

**Гарадзішчанскі кляштар бенедыкцінцаў**. Размяшчаўся каля в. Гарадзішча пад Пінскам (цяпер вёска ў Пінскім р-не Брэсцкай вобл.). Упершыню бенедыкцінцы з'явіліся тут у канцы 1640-х г. У 1662 ваявода полацкі Ян Кароль Копаць падараваў ім значны фундуш, на які былі пабудаваны драўляныя касцёл і кляштар. У 1671 віленскі біскуп А.Сапега зацвердзіў пры касцёле парафію. З сярэдзіны 1740-х г. да 1774 вялося будаўніцтва мураванага касцёла св. Ганны (асвячоны ў 1775). У 2-й пал. 18 ст. пачалося будаўніцтва мураванага будынка кляштара (у 1843 яшчэ было не скончана), тут акрамя келляў знаходзіліся трапезная і аптэка; пры кляштары працавалі школы для манахаў і моладзі, мелася б-ка. У канцы 18 ст. ўзвялі ў стылі ампір браму-званіцу. У 1790 дах і вежы рэканструяваны ў сувязі з размалёўкай касцёла (скончана ў 1802). Магчымы аўтар размалёўкі — Кароль Хюбель (айцец Лукаш). Паводле абмерных чарцяжоў 1869, касцёл, крыжападобны ў плане, меў масіўныя сцены з высока размешчанымі лучковамі вокнамі. Месца перасячэння асн. аб'ёму і трансепта абазначалася 8-граннай шмат'яруснай шатровай вежачкай. Дэкор сканцэнтраваны ў асноўным на 4 барочных франтонах, якімі завяршаюцца тарцы асн. аб'ёму і трансепта. Кляштар зачынены ў 1865 пасля актыўнай падтрымкі манахамі паўстання 1863–64. У 1869 прададзены кіраўніку Мінскай казённай палаты Дэ ля Гардзі. У 1899 будынак кляштара разабраны на цэглу. У 1920-я г. касцёл рэстаўрыраваны паводле праекта польск. архітэктара Казіміра Пшыбылоўскага (аднаўлена вежа, якая была знесена ў 1899). Касцёл знішчаны немцамі ў 1944.

*Літ.*: Адамович С. Ансамбль монастыря бенедиктинцев в Городище под Пинском// Каштоўнасці мінуўшчыны-3. Мн., 2000.

*Валерый Грынявецкі.*

**Гарадніца**, прадмесце г. *Гародня*, помнік горадабудаўніцтва 2-й пал. 18 ст. Комплекс пабудаваны ў 1765—85 па ініцыятыве гарадзенскага старасты А.*Тызенгаўза* ў паўн. частцы Гародні за р. Гарадзнічанка (сучасныя плошчы Леніна, Тызенгаўза, вуліцы Ажэшкі, Ціміразева, 1 Мая, Дзяржынскага) з мэтай стварэння буйнога культ.-прамысл. цэнтра на 1500 жыхароў (архітэктары І.Мёзер у 1765—74, Дж.Сака ў 1774—85). Уключала 85 будынкаў рознага прызначэння, згрупаваных у асобныя кампазіцыйныя адзінкі. Пры забудове ўпершыню ў гісторыі горадабудаўніцтва Беларусі выкарыстаны тыпавыя праекты, уніфікаваныя канструкцыйныя прыёмы, вытрыманы высокія тэмпы буд. работ.

У аснову праектнага плана Г. пакладзены планіровачныя прынцыпы барока. Гал. плошча ўтваралася курданёрам палаца і замыкалася «крывымі афіцынамі», ад якіх разыходзіліся вуліцы-промні. Ад цэнтра плошчы на У праходзіла алея, якая служыла стрыжнем усёй кампазіцыі — паслядоўна на ёй размяшчаліся перпендыкулярныя восі асобных зон і будынкаў. Рацыянальнасць планіроўкі грунтавалася на падзеле комплексу на асобныя кампазіцыйныя элементы і групаванне іх у паслядоўную лінейную структуру. Забудова складалася з 3 зон: адміністрацыйна-прадстаўнічай, навучальнай, вытворча-жылой, якія адпаведна размяшчаліся ў зах., цэнтр. і ўсх. частках тэрыторыі. Прадугледжанае праектным планам Г., які захаваўся ў б-цы Варшаўскага ун-та, будаўніцтва абсерваторыі, оперхаўза, бровара, шпіталя, кардэгарды не было ажыццёўлена. Большасць будынкаў мела фахверкавую канструкцыю, т.зв. «прускі мур».

Кампазіцыйным цэнтрам ансамбля быў палац Тызенгаўза — 1-павярховы П-падобны ў плане мураваны будынак з высокім вальмавым дахам. Цэнтр. частка з гал. уваходам вылучалася надбудаваным авальным у плане другім паверхам, завершаным купалам. Фасады былі аздоблены руставанымі і ляпнымі дэталямі, колернай афарбоўкай. Унутры меліся размаляваныя плафоны, мармуровыя каміны. З паўн.-ўсх. боку да палаца далучалася «італьянская афіцына», у якой праходзілі тэатр. прадстаўленні. З пач. 19 ст. ў палацы рэзідэнцыя губернатара. Разбураны ў 1915.

Найб. захавалася забудова адм.-прадстаўнічай зоны (6 будынкаў). Афіцына (палац) віцэ-адміністратара замыкала перспектыву гал. плошчы насупраць палаца Тызенгаўза. Гэта прамавугольны ў плане 3-павярховы мураваны будынак на 15 аконных восяў па фасадзе. Цэнтр. рызаліт завяршаўся мансардай з трохвугольным франтонам. Унутраная планіроўка 2-га паверха анфіладная, 1-га цокальнага і 3-га (яны ніжэйшыя па вышыні) калідорная. Захаваліся некат. элементы




Праектны план **Гарадніцы** 1780.
1 — афіцына віцэ-адміністратара; 2 — гасцiная афіцына;
3 — музычная афіцына; 4 — тэатральная афіцына; 5 — лямус;
6 — медыцынская акадэмія. А — палац Тызенгаўза;
Б — мануфактуры; В — фальварак; Г — басняцкія дамы;
Д — опергаўз, бровар, шпіталь. Б-ка Варшаўскага ун-та.



фасада (сандрыкі над вокнамі цэнтральнага рызаліта) і ўнутраных канструкцый (скляпенні цокальнага паверха). Гасціная афіцына (потым дом віцэ-адміністратара) знаходзілася на паўд. баку палацавай (Тызенгаўза) плошчы. 2-павярховы мураваны будынак з вальмавым дахам. Фасад аздоблены лапаткамі, філёнгамі і нішамі. Верхні паверх больш нізкі і аддзелены ад 1-га карнізным поясам. Музычная афіцына на паўн. баку палацавай (Тызенгаўза) плошчы цалкам адпавядала архітэктуры размешчанай насупраць гасцінай афіцыны. У 19 ст. фасад перароблены ў стылі класіцызму. Адноўлены ў 1990-я г. Тэатральная («крывая») афіцына кампазіцыйна завяршае ўвагнутым фасадам гал. плошчу комплексу. Насупраць сіметрычна планаваўся будынак кардэгарды (каравулкі). У афіцыне размяшчалася *Гарадзенская музычна-тэатральная школа Тызенгаўза*. Мураваны, крывалінейны ў плане будынак. Спачатку быў 2-павярховы з мансардай, 1-ы паверх меў адкрытую галерэю з аркадай, у цэнтры — высокі арачны праём. Пазней мансарда перароблена ў звычайны паверх, замуравана галерэя, зроблены балконы. Часткова рэстаўрыраваны. Склад (лямус) на гаспадарчым двары за адміністрацыйнымі пабудовамі меў фахверкавую канструкцыю, абкладзеную звонку цаглянай муроўкай, 2-павярховы, з высокім 4-вальмавым дахам і франтоннымі мансардамі па 3 баках. Нізкае сутарэнне загружалася праз прыямак з дапамогай кран-бэлькі. Пазней перароблены пад жыллё. *Гарадзенская медыцынская акадэмія* (школа) пабудавана з тыльнага (паркавага ) боку ад палаца Тызенгаўза. Фасад мураванага будынка разгорнуты ўздоўж галоўнай восі Г. і вызначаецца гарманічным спалучэннем разнастайных па форме аб'ёмаў: 3-павярховая цэнтр. частка фланкіравана паўкруглымі рызалітамі з купальным завяршэннем, па баках далучаны 1-павярховыя крылы з высокім 3-вальмавым дахам. Пілястры цэнтр. часткі падкрэсліваюць пластычнасць аб'ёмаў. Нягледзячы на пазнейшыя пераробкі і ізаляванасць па-за агароджай, будынак і сёння гарманізуе з прасторай гар. парку. У навучальную зону Г. акрамя мед. акадэміі ўваходзілі *Гарадзенскі батанічны сад*, аранжарэя, буд. школа. Вытворчая зона складалася з будынкаў суконнай, шаўковай, збройнай, фарбавальнай, карэтнай, тытунёвай і інш. мануфактур (не захаваліся, гл. *Гарадзенскія каралеўскія мануфактуры*). З усходу на захад уздоўж паўд. мяжы Г. праходзіла транспартная магістраль — вул.Раскоша (Басняцкая, Язерская, Верцялішская, сучасная вул.Ажэшкі). Тут знаходзіліся 20 тыпавых драўляных дамоў з мураванымі фасадамі (захаваўся «домік майстра», вул. Ажэшкі, 37), гродзенскія корчмы. Магістраль злучала ўсе зоны і да цяперашняга часу захавала свой напрамак і шырыню.

*Літ.*: Квитницкая Е.Д. Строительство Тызенгауза в Гродно // Архитектурное наследство. 1958. № 11; Калнин В.В. Городница — городской ансамбль XVIII века // Строительство и архитектура Белоруссии. 1988. № 4.

***Валянцін Калнін.***

**гараднічы**, загадчык дзяржаўных або прыватнаўладальніцкіх пабудоў у пэўным населеным пункце. Клапаціўся пра іх стан, рамонт, пабудову новых. Пасаду Г. нават у буйных гарадах не заўсёды займалі прадстаўнікі шляхты. У Вільні ў пач. 16 ст. Г. былі з мяшчанскага роду Гозіушаў. З мяшчан былі Г. ў радзівілаўскім Давыд-Гарадку ў 17—18 ст. За выкананне абавязкаў Г. меў ільготы: вызваляўся ад падаткаў, павіннасцей, атрымліваў зямлю, аплату і інш.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гарадок** (цяпер горад, цэнтр Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Віцебскім ваяв., на р. Гаражанка. Вядома з 16 ст. як сяло ў *Азярышчанскай воласці*. На карце С.Пахалавіцкага (1579) паказаны Вял. і Мал. Г. На карце Т.Макоўскага (1613) адзначаны як мястэчка, дзярж. маёмасць. У 1650 упамінаецца Ільінская царква, пераўтвораная ва уніяцкую, у гэтым годзе яна вернута праваслаўным. Паводле некат. звестак, меў герб — выява льва на залатым полі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

**Гарадоцкі замак**, помнік абарончага дойлідства 14—18 ст. Размешчаны ў паўн. частцы в. Гарадок (Маладзечанскі р-н). Авальны ў плане дзядзінец (60—40 м) абкружаны ровам (шыр. 25—30 м), з Пд, З і Пн — магутным земляным валам (выш. да 10 м). З У ў разрыве вала стаяла вежа (засталася круглая пляцоўка дыяметрам каля 7 м), якая ахоўвала ўезд у замак. Уваход у замак быў па драўляным мосце цераз роў. На дзядзінцы знаходзіліся мураваныя і драўляныя жылыя і гасп. пабудовы. Пры раскопках знойдзена кераміка 14—18 ст., сярод якой вылучаецца паліваная кафля з раслінным арнаментам і вывай арла. Комплекс збярогся часткова (засталіся валы, роў, падмуркі асобных будынкаў).

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.

***Міхась Ткачоў.***

**«гарадскія» сяляне**, катэгорыя сельскага феадальна-залежнага насельніцтва, прыпісанага да маёнткаў, што належалі гарадам; існавала ў 15—19 ст. пераважна ў зах. частцы Беларусі. Гарадское землеўладанне склалася ў 15—16 ст. шляхам куплі магістратамі маёнткаў у прыватных асоб, што пацвярджалася прывілеямі вял. князя ВКЛ. Такія правы атрымалі Берасце (1408), Гародня (1502 і 1506) і інш. У 1611 сойм Рэчы Паспалітай забараніў гарадам набываць маёнткі. «Г.»с. атрымлівалі ў карыстанне зямлю і адбывалі за гэта паншчыну ці плацілі аброк. У 19 ст. некаторыя гар. думы прыцягвалі іх да выканання грамадскіх павіннасцей па прыбіранні вуліц, рамонце мастоў і інш.

***Уладзімір Сосна.***

**Гараін** Ян Непамуцэн (1760—1820), удзельнік *паўстання 1794* у Польшчы, на Беларусі і Літве. Сын берасцейскага ваяводы Яна Антонія. У 1775 уступіў у корпус кадэтаў у Варшаве. З 1782 выбіраўся паслом на соймы Рэчы Паспалітай, з 1786 чл. Скарбавай камісіі ВКЛ, у 1792 чл. Скарбавай камісіі абодвух народаў. У студз. 1794 удзельнічаў у працы Вайсковай камісіі ВКЛ. Удзельнік падпольнага патрыятычнага руху. З крас. 1794 чл. Вайсковага аддзела паўстанцкай Часовай намесніцкай рады. Часовай паўстанцкай радай накіраваны ў вызваленую Вільню. Арганізатар паўстання на Берасцейшчыне і Падляшшы. З мая намеснік радцы *Найвышэйшай нацыянальнай рады*, у ліп. 1794 Т.Касцюшка прызначыў яго палкоўнікам паспалітага рушэння. З корпусам Ю.*Серакоўскага* ўдзельнічаў у баях супраць войск А.В.Суворава. Пасля задушэння паўстання жыў у Гародні, Варшаве, у 1812 бурмістр Вільні, у 1813 жыў у Дрэздэне, потым у Парыжы. Пасля ўказа аб амністыі 10.4.1814 — на радзіме, дзе яму былі вернуты маёнткі.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Гаранін** Сяргей Лявонцьевіч (н. 28.5.1965, г. Петразаводск, Расія), беларускі літаратуразнавец. Канд. філал. навук (1997). Скончыў Мінскі дзярж. пед. ін-т (1993). З 1996 у Ін-це літаратуры



Нац. АН Беларусі (старшы навук. супрацоўнік). Даследуе гіст.-мемуарную і паломніцкую л-ру ВКЛ, праблемы тэксталогіі, станаўленне арыгінальнай бел. л-ры ў яе сувязі з утварэннем бел. народнасці, ідэйна-маст. асаблівасці і нац. адметнасць пісьменства ранняга і позняга сярэдневякоўя. Рыхтуе да выдання літаратурныя помнікі 11—18 ст., укладальнік (з В.А.Чамярыцкім) «Анталогіі даўняй беларускай літаратуры» (2003).

*Тв.*: Шляхамі даўніх вандраванняў: Гіст.-тэарэт. нарыс развіцця паломніцкай літаратуры Беларусі XII—XVI стст. Мн., 1999; Этнакультурныя працэсы ў X—XIV стагоддзях і перыядызацыя развіцця старажытнай літаратуры // Весці Нац. АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2000. № 2; Маральны ідэал у мемуарнай літаратуры Беларусі XVI—XVII стст. // Славянскія літаратуры ў кантэксце сусветнай. Мн., 2000. Ч. 1; Літаратурны працэс на мяжы эпох: ад ранняга да позняга Сярэднявечча // Роднае слова. 2002. № 1—3.

**Гарбачэўскі** Мікіта Іванавіч [1804, Магілёўская губ.—27/28.10(8/9.11).1880], вучоны-архівіст, крыніцазнавец, археограф, педагог. З сям'і правасл. святара. Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію, дзе атрымаў ступень старшага кандыдата філасофска-тэалагічных навук (1831). Да 1852 выкладаў гісторыю, філасофію, логіку, рус., грэчаскую і яўрэйскую мовы ў Драгічынскім дваранскім вучылішчы, Віленскім дваранскім інстытуце, Віленскім рабінскім вучылішчы і Віленскай гімназіі. Адзін з ініцыятараў стварэння Віленскага цэнтр. архіва стараж. актаў, з 1853 яго першы архіварыус (загадчык). Упарадкаваў і сістэматызаваў актавыя кнігі і дакументы архіва па гісторыі Беларусі і Літвы. Адзін са стваральнікаў і член (з 1864) Віленскай археаграфічнай камісіі, доўгі час адыгрываў вядучую ролю ў публікацыі *Актаў Віленскай камісіі*, аўтар прадмоў да яе выданняў. У працах «Кароткія табліцы, неабходныя для гісторыі, храналогіі, наогул для ўсялякіх археалагічных даследаванняў і ў прыватнасці для разбору старажытных актаў і грамат заходняга краю і Царства Польскага» («Краткие таблицы, необходимые для истории, хронологии, вообще для всякого рода археологических исследований и в частности для разбора древних актов и грамот западного края России и Царства Польского», Вільня, 1867, 2 выд. Мн., 1991) і «Археаграфічны каляндар на дзве тысячы гадоў (325—2324) паводле Юліянскага лічэння і на семсот сорак два гады (1583—2324) паводле Грыгарыянскага лічэння» («Археографический календарь на две тысячи лет (325—2324) по Юлианскому счислению и на семьсот сорок два года (1583—2324) по Григорианскому счислению», Вільня, 1869) прывёў велікодныя табліцы і схемы карыстання імі, змясціў пералік святых, якія ўшаноўваюцца правасл. і каталіцкай цэрквамі, супаставіў юліянскі і грыгарыянскі календары, паказаў іх суадносіны з інш. календарамі на мінулыя і будучыя стагоддзі, надрукаваў сінхронныя табліцы царавання манархаў Расіі, ВКЛ і Польшчы, а таксама табліцы па польска-літоўскай метралогіі з пералічэннем на рускую. У «Слоўніку старажытнай актавай мовы Паўночна-Заходняга краю і Царства Польскага» («Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского», Вильня, 1874), за які атрымаў Увараўскую прэмію Рас. АН, даў пераклад велізарнай колькасці слоў, юрыд. тэрмінаў, а таксама падрабязныя тлумачэнні, у т.л. параўнальныя табліцы курсаў польска-літоўскіх манет і рускіх грошай за некалькі стагоддзяў.

*Тв.*: О центральном архиве древних актовых книг губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской. Вильна, 1869; Каталог древним актовым книгам губерний: Виленской, Гродненской, Минской и Ковенской, также книгам некоторых судов губерний Могилевской и Смоленской, хранящимися ныне в Центральном архиве в Вильне. Вильна, 1872.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Никита Иванович Горбачевский / Сост. Л.Л.Толкачева. Мн., 1991 (змешчана бібліяграфія прац Г.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Гардзееў** Максім Юр'евіч (11.12.1974, г. Магілёў—24.7.2004), беларускі гісторык. Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1996), аспірантуру Ін-та гісторыі Нац. АН Беларусі (1999), дзе пасля працаваў. Даследаваў гістарыяграфію, крыніцазнаўства і метады даследавання бел. гісторыі, асабліва Полацка 17 ст. Склаў рэестр магістрацкіх кніг Полацка 1650—1772. Падрыхтаваў зборнік «Актавая кніга Полацкага магістрата 1650 г.: Зборнік дакументаў» (404 дакументы).

*Тв.*: Новые данные к биографии Симеона Полоцкого: завещание матери просветителя // Славяноведение. № 2. 1999; «Под час небеспеченства од Москвы...»: (актавая кніга полацкага магістрату за 1656—1657 г. як крыніца па вывучэнні вайны 1654—1667 г.) // Бел. гіст. агляд. 1999. Сш. 1—2; Полацкі магістрат у часы вайны 1654—1667 гг. // Весці Нац. АН Беларусі. Сер. гуман. навук. 2000. № 3; Шляхецкія тэстаменты 16—пачатку 18 ст. // Гіст. альманах. Гародня, 2000. Т. 3 (з Н.Сліж); Формуляр записей-тестаментов в полоцких магистрацких книгах 2-й пол. XVII в. // Межславянские взаимоотношения и связи: Средние века — раннее Новое время. М., 2000; Тэстамент маці Сімяона Полацкага// Беларускі горад у часе і прасторы. Навамолацк, 2001; Актавыя кнігі беларускіх магістратаў XVI—XVII стст. // Наука и инновации. 2003. № 2—3; «Осьмак» в денежных системах Великого княжества Литовского XVI—XVIII вв. // Там жа. 2004. № 8 (з Ш.І.Бекцінеевым).

*Літ.*: Бектинеев Ш.И. Икар в жизни и науке: (Максим Гордеев) // Наука и инновации. 2004. № 8.

***Шаміль Бекцінееў.***

**Гардзееў** Юрый Юр'евіч (н. 2.7.1967, г. Гродна), беларускі гісторык. Д-р гісторыі (2000). Скончыў Гродзенскі дзярж. ун-т (1991). У 1988—92 працаваў у ін-це «Белспецпраектрэстаўрацыя» (з 1990 «Спецпраектрэстаўрацыя»). У 1993—95 выкладаў у Гродзенскім ун-це. У 1996—99 аспірант Пед. акадэміі ў Кракаве, дзе абараніў доктарскую дысертацыю. З 2001 працуе ў Навук. б-цы Польскай акадэміі мастацтваў і Польскай АН у Кракаве. Даследуе гісторыю бел. гарадоў, сац.-эканам. і культ. гісторыю Гродна, гістарыяграфію і крыніцазнаўства Гродна, гісторыю татараў Беларусі, гісторыю парадкавых камісій ВКЛ.

*Тв.*: Да пытання фарміравання гродзенскай урбананімікі // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1997. Вып. 2; Да пытання аб планіроўцы Гародні ў другой палове 13—пачатку 15 ст. // Гістарычны альманах. Гродна, 1998. № 1; Cmentarz farny w Grodnie, 1792—1939. Kraków, 1999 (з Я.Розмусам); Prekursorzy badań nad dziejami Grodna // Białostocczyzna. 1999. № 2; Próby reform miejskich w Grodnie w okresie Oświecenia // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. Kraków, 2001. Rok 46; Przyczynek do dziejów kancelarii miejskich grodzieńskich w XVI—XVIII w. // Białostocczyzna. 2001. № 1—2; Socjotopografia Grodna w XVIII wieku. Toruń, 2002; Z dziejów Komisji Porządkowych Cywilno-Wojskowych w Wielkim Księstwie Litewskim // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. Kraków, 2002. Rok 47; Materiały źródłowe do dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego. Cz. 1. Inwentarze miasta Pińska z lat 1764 i 1778 // Там жа. Kraków, 2003. Rok 48;

Urzędnicy nadworni i dworscy litewscy w Grodnie w XVIII w. // Dwór a kraj: między centrum a peryferiami władzy. Kraków, 2003.

**Гаркуша** Ілья, адзін з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Нарадзіўся ў Быхаве. Палкоўнік Запарожскага Войска. У 1648 з атрадам прыйшоў з Украіны на Беларусь, дзе да яго далучыліся бел. паўстанцы-сяляне. На пераправе цераз Бярэзіну каля мяст. Горваль перамог атрад стражніка ВКЛ Р.Мірскага. У снеж. 1648 няўдала аблажыў Стары Быхаў. У 1651 з атрадам у 15 тыс. чал. ваяваў у раёне Прыпяці. Па дарозе да Чачэрска яго атрад быў разбіты войскам ВКЛ пад камандаваннем Я.Паца. Другое паражэнне атрымаў у баі пад Чэрыкавам з аб'яднанымі войскамі Горскага, Паца, У.Валовіча. У жн. 1651 па загаду Б.Хмяльніцкага з атрадам адправіўся па Дняпры да Кіева. У сак. 1654, магчыма, пасол Хмяльніцкага ў Маскве.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła... Wilno; Witebsk, 1859; Документы об освободительной войне украинского народа, 1648—1654 гг. Киев, 1965.

***Васіль Мялешка.***

**Гаркуша** Сямён Іванавіч (каля 1739, в. Беразань Мазырскага пав.—пасля 1784), кіраўнік паўстанцкіх атрадаў на Украіне і Беларусі ў 1770—80-я г. З прыгонных сялян. З 9 гадоў жыў у Запарожскай Сечы. У складзе запарожскага войска ўдзельнічаў у рас.-турэцкай вайне 1768—74. У пач. 1770-х г. арганізаваў паўстанцкі атрад, на чале якога нападаў на панскія маёнткі на Украіне. У 1773 сасланы на катаргу, уцёк адтуль у 1776 і сабраў з запарожскай беднаты новы атрад. У 1778 пасаджаны ў турму, праз год уцёк, на чале атрада нападаў на панскія маёнткі на Украіне і Беларусі. У 1783 арыштаваны на Беларусі, але зноў уцёк і ўзначаліў атрад паўстанцаў. У лют. 1784 арыштаваны ў Ромнах і сасланы на вечную катаргу ў Херсон. Пра Г. як абаронцу прыгнечаных складзена шмат нар. песень і апавяданняў.

**Гарнастаі**, шляхецкі род у ВКЛ. Першапачаткова карысталіся ўласным гербам, які нагадваў герб «Вага» змененая (шалі, над каромыслам якіх — лілея). У 1554 (1544?) паводле прывілея Жыгімонта Аўгуста атрымалі герб «Гіпацэнтаўр» (выява каня, у якога галава, грудзі і рукі чалавека, замест хваста — змяя, якую паражае страла, выпушчаная з лука рукамі самой жа жывёліны). Найб. вядомыя:

Раман Івашкавіч (?—1487?), першы вядомы з роду Г. Намеснік пуціўльскі ў 1476—82, оўруцкі ў 1486.

Гарнастай (Астафій; каля 1460—1503), сын Рамана Івашкавіча. Ключнік кіеўскі ў 1486, намеснік оўруцкі ў 1487—93. Загінуў у бітве з татарамі. Меў за жонку Марыю, дачку кіеўскага баярына С.Скіпара, за якой узяў шэраг маёнткаў у Жытомірскім пав. (Туліна і інш.), некалі дадзеных Скіпару кн. Сямёнам Алелькавічам. Меў сыноў Івана, Анікея і Уласнага (Уласа). Апошні меў сыноў Лаўрына (упамінаецца ў 1559) і Уласнага (памёр у 1585).

Іван (?—1558), сын Гарнастая. Пісар ВКЛ з 1512, маршалак гаспадарскі ў 1529—42, пасол у Маскву ў 1522, дзяржаўца дарсунішскі ў 1525, падскарбі земскі і староста слонімскі з 1531, дзяржаўца мсцібогаўскі з 1534, зэльвенскі з 1535, маршалак дворны з 1542. У 1538—42 часова выконваў абавязкі ваяводы троцкага, у 1549—51 — віленскага. У 1539—51 таксама дзяржаўца біршцянскі, з 1556 — крэўскі. У 1551 ваявода навагародскі. Набыў шэраг маёнткаў у Берасцейскім і Ваўкавыскім пав., ад паноў Кезгайлаў атрымаў Астрошыцы ў Менскім, а ў канцы жыцця — спадчыну сваёй апошняй жонкі князёўны М.Заслаўскай (па яе першым мужу князю В.Друцкім-Талачынскім) у Аршанскім пав. (долю ў Друцку, Басеі, Гарах, Стараселлі і Талачыне). Ад шлюбу з князёўнай Г.В.Саламярэцкай (памерла ў 1550) меў сыноў Гаўрылу, Івана, Германа, Астафія, дачок Настассю (жонка князя Р.Сангушкі, потым Ф.Кміты), Ганну (жонка Б.Епамаха, потым Ю.Гардыны), Алену (жонка П.Корсака), Яўгенію (жонка Ю.Хадкевіча) і невядомую па імю (жонка кн. Л.Палубінскага).

Анікей (?—1565), сын Гарнастая. Дваранін гаспадарскі ў 1529, дзяржаўца дубінскі і канеўскі, ключнік віленскі з 1533, пісар ВКЛ у 1536—41, староста чаркаскі і канеўскі да 1547, дзяржаўца любашанскі ў 1546—55, староста гомельскі з 1547 і рэчыцкі з 1555, маршалак гаспадарскі з 1547. Першай яго жонкай была Настасся, дачка Р.Грамыкі, другой — Багдана Храбтовіч, якая прынесла яму ў пасаг частку маёнткаў Горы і Дудаковічы ў Аршанскім пав. (па сваёй маці, князёўне Друцкай-Горскай). Меў адзінага сына Фрэдэрыка, які памёр маладым без нашчадкаў, пасля чаго яго маёнткі перайшлі да стрыечных братоў.

Германен (?—1553), сын Івана. Пісар ВКЛ з 1551. Валодаў Сакаловам у Слонімскі пав.

Гаўрыла (Габрыель; 1515?—1588), сын Івана. Намеснік камянецкі, ваявода і староста менскі ў 1566, ваявода берасцейскі ў 1576. Валодаў Капыламі, Шчытнікамі і Балатковам у Берасцейскім, Поцешам у Вількамірскім пав., часткай Астрошыц, Талачына, Басеі. Са сваіх маёнткаў у 1567 ставіў у войска 49 коннікаў. У 1585 маці Уласнага Уласнавіча Г. абвінавацiла яго ў смерці сына. Ад шлюбу з полькай Барбарай Ласкай меў сына Гераніма.

Іван (1520?—1566), сын Івана. Намеснік дарсунішскі з 1551. Уладальнік Поразава ў Ваўкавыскім, Мішневічаў у Берасцейскім пав., долі ў Друцку і інш. У 1567 яго ўдава Ульяна Багавіцінаўна ставіла ў войска 53 коннікаў, яго маёнткі былі пазней падзелены паміж братамі.

Астафій (1530?—пасля 1586), сын Івана. Валодаў часткай Астрошыц і Стараселля, а таксама маёнткамі ў Троцкім пав., ставіў у войска 33 коннікаў. Пакінуў адзіную дачку Соф'ю (жонка А.Тальваша).

Геранім (1540?—1600), сын Гаўрылы. У 1590 перадаў маёнткі ў Аршанскім пав. (спадчыну М.Заслаўскай) канцлеру Л.Сапегу. Пакінуў 3 дачок і сына Самуэля (?—1618?), падкаморага кіеўскага, на сыне якога Міхаіле (памёр у 1637) скончылася мужчынская лінія роду Г. Маёнткі іх адышлі да дачок Самуэля — Альжбеты (памерла ў 1651), спярша жонкі А.Дарагаеўскага, потым троцкага ваяводы М.Абрамовіча, і Ганны (памерла ў 1639), жонкі Р.Ляшчынскага.

*Літ.*: Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. 3. Warszawa, 1882; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887; Яго ж. Herbarz polski. T. 7. Warszawa, 1904.

***Вячаслаў Насевіч.***

**гарнец**, гарц, старажытная мера ёмістасці вадкасцей і сыпучых рэчываў. Назва паходзіць ад глінянага гаршчочка для вымярэння піва (варшаўскі гарц) і зерня (складаў 2 піўныя Г.). У 13—19 ст. існавалі польскі (каронны) Г., роўны 4 квартам (16 кватэрак, $^1/_{72}$ бочкі, 3,77 л, у далейшым 4 л). Навапольскі (варшаўскі) Г. па стандарту 1816 для сыпучых рэчываў складаў $^1/_4$ чвэрці ($^1/_{24}$ бочкі, 4 кварты, 16 кватэрак, 32 паўкватэркі). Галіцыйскі Г. быў роўны 3,84375 л, рускі роўны $^1/_8$



чацверыка (8 фунтаў, 2 паўгарцы, $^{1}/_{64}$ чвэрці, $^{1}/_{4}$ кадзі, або аковы, 3,27968 л).

Уставай мер і вагаў сойм Рэчы Паспалітай 1764 устанавіў Г., які ўмяшчаў 2 паўгарцы (4 кварты, 16 кватэрак). У выглядзе агульнадзярж. эталона (цэхавай або акаванай жалезам меры) для корца, корчыка і чвэрці рассылаўся ва ўсе ваяводскія і павятовыя цэнтры, мястэчкі, ратушы, магістраты, кірмашы, корчмы, шынкі для карыстання без платы. Узор цэхавага, або вялікага Г. выраблялі за кошт ратуш (дзе іх не было — войтаў і бурмістраў) пад адказнасць ваявод. Паводле канстытуцыі ВКЛ 1766 літоўскі камісійны Г. абвяшчаўся агульнай адзінкай вымярэння збожжа і напіткаў і павінен быў мець углыб 7 цаляў, 2 чвэрці і $^{1}/_{8}$ цалі, ушыр — 4 цалі, 3 чвэрці і 1/8 цалі (1 цаля = $^{1}/_{24}$ локця). Збожжавая бочка ўмяшчала 4 чвэрці (8 асьмін, 16 шаснаццатак, 144 шынковыя Г., 5,6474 л). Для рознічнага гандлю ўжываўся шынковы (малы) Г. (2 паўгарцы, 4 кварты, 8 паўкватэрак, 2,8237 л). Цэхавы (вялікі) Г. прыраўноўваўся да 2 шынковых. Чашай ёмістасцю 6 цэхавых або 12 шынковых Г. мералі прэсны мёд. Збожжавыя меры (Г. і локці) акаймоўвалі жалезным прутом за кошт магістраў. Злоўжыванне стандартам каралася штрафам у 100 коп літоўскіх грошаў. На Беларусі Г. выцясняецца з ужытку з 1772 у працэсе ўвядзення казённай водкупнай сістэмы гандлю, асабліва алкаголем.

*Літ.*: Volumina legum. T. 7. Petersburg, 1860; Каменцева Е.И., Устюгов Н.В. Русская метрология. М., 1965; Скурат К.У. Даўнія беларускія меры: (лексіч. аналіз). Мн., 1974; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975; Gloger Z. Encyklopedia staropolska ilustrowana. T. 2. Warszawa, 1978.

***Яўген Анішчанка.***

**Гародня**, Горадна (сучаснае Гродна, цэнтр Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад, цэнтр *Гарадзенскага павета* Троцкага ваяв., на р. Нёман. Вядомы з 1127 як цэнтр удзельнага княства. З сярэдзіны 13 ст. ў складзе ВКЛ. Быў важным гар. асяродкам краіны, адным з цэнтраў паліт. жыцця. У сярэдневяковы горад складаўся з замка ў сутоках Нёмана і яго прытока Гараднічанкі, вакольнага горада і шэрагу пасадаў (каля Барысаглебскай, Малой, Прачысценскай цэркваў, на Падоле). З 1280-х г. да пач. 15 ст. на Г. і яе наваколлі зрабілі каля 20 нападаў крыжакі. У пач. 14 ст. асаблівая роля ў арганізацыі гар. жыцця і абароны належала кашталяну замка *Давыду Гарадзенскаму*. Крыжацкія напады адмоўна паўплывалі на развіццё горада, запаволілі яго сац.-эканам. развіццё. Для абароны ад іх былі ўзведзены лініі гар. умацаванняў, пра якія згадваюць мазавецкія крыніцы 1325 (гэтыя ўмацаванні не захаваліся). Пасля перамогі ў *Грунвальдскай бітве 1410* пачаўся новы этап у гісторыі горада. Г. была сядзібай вял. князёў літоўскіх і каралёў польскіх. У 1386—1430 вял. князь Вітаўт наведаў Г. 31 раз. Шмат часу ў Гарадзенскім замку праводзілі Казімір Ягайлавіч, Аляксандр, Стафан Баторый, які тут памёр у 1586. У 1437, 1445, 1463, 1473 і 1486 у Г. збіраліся паны-рада. Горад быў адным з традыцыйных месц, дзе адбываліся пасяджэнні сойма ВКЛ (1501, 1506, 1522, 1566—67, 1568). У 1496 вял. князь Аляксандр даў Г. магдэбургскае права.

У 1560—61 Г. займала вял. тэрыторыю, складалася з права- і левабярэжнай частак, 3 плошчаў («старадаўняга», Нямецкага і Занёманскага рынкаў), 32 вуліц і 5 трактаў. Паводле сумарных даных 16—18 ст., у горадзе было больш за 60 вуліц і плошчаў. Забудова пераважала драўляная і фахверкавая. З дрэва ўзводзілася не толькі шараговая мяшчанская забудова, але і двары шляхты і нават магнацкія палацы. Згодна з крыніцамі 1789—90, каля 80% жылых будынкаў Г. былі драўляныя. У перыяд новага часу

План **Гародні**. 1795.

ў горадзе функцыянавалі шматлікія млыны, бровары, цагельні, каля 55 корчмаў. Колькасць насельніцтва ў Г. ў перыяд новага часу вагалася ў межах 5—6 тыс. чал. Паводле перапісу 1789 у горадзе жыло 5653 чал., а ў 1794 — 6431 чал.

У 13 ст. ў Г. існавала 5 мураваных цэркваў: Барысаглебская на Каложы, Прачысценская і Малая на пасадах, Васкрасенская на вакольным горадзе, Ніжняя на замкавым дзядзінцы (у пач. 14 ст. на яе месцы ўзведзена Верхняя царква). У крыніцах 16—17 ст. у горадзе адзначаны правасл. цэрквы: кафедральная (саборная) Прачыстай Багародзіцы (у 17 ст. царква манастыра базыльянак), царква т.зв. Малога манастыра на Падзамчы, цэрквы св. Сімяона і Св. Крыжа на Падоле, царква св. Мікулы каля паўн.-зах. мяжы горада пры Віленскім гасцінцы, Васкрасенская царква (у 17 ст. перанесена з тэрыторыі старадаўняга вакольнага горада на Рэзніцкую вул.). Упамінаюцца цэрквы Троіцкая, Спаса і св. Ільі Прарока.

У канцы 14 ст. Вітаўт узвёў першы парафіяльны касцёл («Фара Вітаўта»). У канцы 15 ст. збудаваны касцёл св. Мікалая і аўгусцінскі кляштар з касцёлам Св. Тройцы на Нямецкім рынку. У 16 ст. заснаваны шпіталь і касцёл Св. Духа на Віленскай вул. 1620—30-я г. сталі перыядам найб. інтэнсіўнага будаўніцтва кляштараў. У гэты час свае сядзібы ў горадзе заснавалі езуіты, дамініканцы, францысканцы, бернардзінкі, брыгіткі і базыльянкі, у 2-й пал. 17 ст. — кармеліты босыя, а ў пач. 18 ст. — баніфратры.

Першыя рамесныя карпарацыі ў Г. заснаваны ў 2-й пал. 16 ст. (цэх муляраў, цесляроў, бондараў і ганчароў; цэх майстроў металаапрацоўчых спецыяльнасцей, у склад якога ўваходзілі кавалі, кацельшчыкі і мечнікі; шавецкі і кравецкі цэхі). У 17 ст. згадваюцца цэхі гарбароў, злотнікаў і цырульнікаў. У перыяд новага часу ў Г. існавалі цэхі рэзнікаў і рыбакоў. Відаць, у 2-й пал. 18 ст. адбылося адасабленне рамеснікаў шэрагу прафесій у асобныя цэхі ганчароў і страхароў. У 18 ст. ў Г. налічвалася 13 цэхаў: гарбарскі, шавецкі, кравецкі з кушнярамі, зборны кавальскі са слесарамі і мечнікамі, сёдзельніцкі, мулярскі, ганчарскі, цяслярскі з пільшчыкамі і бондарамі, ткацкі (1759), рыбацкі, рэзніцкі, фурманскі, цагельная кампанія. З канца 18 ст. ёсць звесткі пра дзейнасць адноўленага сталярскага цэха.



Герб **Гародні**.

Агульная колькасць рамесных прафесій даходзіла да 100.

У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Г. была двойчы захоплена маскоўскімі войскамі (у 1655 ваяводам Я.К.Чаркаскім і ў снеж. 1659 ваяводам І.А.Хаванскім). У 1661 рас. войскі пакінулі горад. У 1673 прынята соймавая канстытуцыя, паводле якой у Г. меў праводзіцца кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай, за выключэннем элекцыйных і канвакацыйных соймаў. Да канца 18 ст. тут адбыліся 11 соймаў (1678—79, 1688, 1693, 1718, 1726, 1729, 1730, 1744, 1752, 1784, 1793). У канцы 17 ст. выдаваўся інфармацыйны бюлетэнь *«Авізы Гродзеньске»*. У 1702 і 1708 Г. займалі войскі шведскага караля Карла XII, у 1705—08 у горадзе знаходзіліся саюзныя Рэчы Паспалітай узброеныя сілы рас. цара Пятра І. У 1760—70-я г., дзякуючы намаганням надворнага падскарбія ВКЛ, старасты гарадзенскага А.*Тызенгаўза* ў каралеўскім двары *Гарадніца*, што прымыкаў да горада з ПнУ, узведзены мануфактурны комплекс, заснаваны шэраг школ, закладзены буйны батанічны сад. У *Гарадзенскай друкарні* друкаваліся кнігі на розных мовах, *«Газэта Гродзеньска»*. У 2-й пал. 18 ст. ў Г. працавалі дзярж. ўстановы ВКЛ – Скарбовая камісія, Вайсковая камісія, асэсарскі суд, адбываліся кадэнцыі Трыбунала ВКЛ. 19.4.1776 заснавана камісія добрага парадку, дзейнасць якой была накіравана на агульнае добраўпарадкаванне горада, паляпшэнне яго гаспадарча-фінансавага становішча. У кампетэнцыю камісіі ўваходзілі таксама пытанні ўпарадкавання гар. архіва, складанне інвентароў і планаў, супрацьпажарная бяспека, будаўніцтва, санітарна-гігіенічныя мерапрыемствы, рэвізія шпіталяў і інш. Адным з вынікаў дзейнасці камісіі стала адбудова ў 1784 ратушы. Дзейнасць камісіі добрага парадку працягнула цывільна-вайсковая камісія Гарадзенскага пав. (1789—92). У яе кампетэнцыю ўваходзілі пытанні ўліку насельніцтва, збору падаткаў, нагляд за цэнамі ў корчмах, мерамі і вагамі, нагляд за парафіяльнымі школамі, матэрыяльнае забеспячэнне і раскватараванне вайсковых часцей у горадзе. З вер. 1792 Г. была сядзібай *Таргавіцкай канфедэрацыі*. У 1793 у горадзе адбыўся апошні сойм Рэчы Паспалітай, які зацвердзіў 2-і падзел краіны (гл. *Гарадзенскі сойм 1793*). У час паўстання на чале з Т.Касцюшкам у жн. 1794 у Г. з Вільні пераведзена *Цэнтральная дэпутацыя Вялікага княства Літоўскага*. 25.11.1795 у Г. адбылося адрачэнне ад трона Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Орловский Е. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910; Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923; Воронин Н.Н. Древнее Гродно. М., 1954; Щербаков С.А. Из истории города Гродно в XVII веке // Доповіді та повідомлення ЛДУ ім. І.Франка. Львів, 1957. Вип. 7, ч. 2; Квитницкая Е.Д. Планировка Гродно в XVI—XVIII вв. // Архитектурное наследство. М., 1964. Вып. 17; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991; Kaczorowski B. Grodno: Historia i zabytki. Warszawa, 1991; Гарадзенскія запісы: Старонкі гісторыі і культуры. Вып. 1—3. Гародня, 1993—97; Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І. Стары замак у Гродне XI—XVIII стст.: Гіст.-археал. нарыс. Мн., 1993; Lileyko J. Przebudowa grodzieńskich pałaców Batoriańskiego i Sapieżyńskiego na gmach sejmowy w 1717—1718 roku // Między Padwą a Zamościem. Warszawa, 1993; Краязнаўчыя запіскі. Вып. 3—6. Гродна, 1995—2003; Grodno w XVIII wieku.: Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku). Białystok, 1997; Гардзееў Ю. Да пытання аб планіроўцы Гародні ў другой палове 13—пачатку 15 ст. // Гістарычны альманах. Гродна. 1998. № 1; Яго ж. Próby reform miejskich w Grodnie w okresie Oświecenia // Rocznik Biblioteki Naukowej PAU i PAN w Krakowie. Rok 46. 2001. Kraków, 2001; Яго ж. W kwestii stratygrafii społecznej Grodna w pierwszej połowie XVI w. // Białoruskie zeszyty historyczne. 2001. Z. 16; Яго ж. Socjotopografia Grodna w XVIII wieku. Toruń, 2002; Kowalczyk J. Pałace i dwory późnobarokowe w mieście sejmowym

Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Сагановіч Г. Нямецкі падарожнік Самуэль Кіхель пра Горадню часоў Стэфана Баторага // Спадчына. 2002. № 2—3.

*Юрый Гардзееў.*

**Гасеўскія**, Гансеўскія, Корвін-Гасеўскія, шляхецкі род герба «Слепаўрон». Паходзіць з маёнтка Госі ў Мазовіі. У канцы 16 ст. прадстаўнікі роду перасяліліся ў ВКЛ. Мелі маёнткі ў Ашмянскім, Смаленскім, Мсціслаўскім пав., на Падляшшы і ў Ломжынскай зямлі (Польшча). Найб. вядомыя:

Аляксандр (каля 1575—крас. 1639), сын Яна. Рэгент дзярж. канцылярыі пры канцлеры ВКЛ Л.Сапегу (1596), рэферэндар ВКЛ у 1610—25, вял. пісар ВКЛ у 1615—25, ваявода смаленскі з 1625, пісар польны з 1630, староста маркаўскі, пуньскі, купішскі. У 1599 і 1600 пасол у Маскву. У 1600 атрымаў памежнае Веліжскае староства. У 1606 пасол да Лжэдзмітрыя І, схоплены ў час падзення апошняга ў Маскве, вызвалены ў 1608. Разам з Сапегам быў натхніцелем інтэрвенцыі ў Маскву, удзельнік аблогі Смаленска ў 1610. У 1611—13 з войскам Рэчы Паспалітай зноў быў у Маскве. У 1617—18 удзельнічаў у другім паходзе каралевіча Уладзіслава на Маскву, у 1621—22 — у вайне са шведамі за Інфлянты. Заснаваў езуіцкія калегіумы ў Смаленску і Віцебску, кляштар брыгітак у Берасці (у ім пастрыглася яго дачка Ганна). Ад шлюбу з Евай Пац меў 4 сыноў і 3 дачок.

Крыштоф (?—студз. 1643), старэйшы сын Аляксандра. Пераемнік бацькі на пасадах вял. пісара ВКЛ (1625), старасты веліжскага (1627), рэферэндара ВКЛ (1639), ваяводы смаленскага (1639). У 1639—40 узначальваў пасольства ў Парыж.

Вінцэнт Аляксандр (каля 1620—29.11.1662), малодшы сын Аляксандра. Вучыўся ў Італіі. Стольнік ВКЛ (1646), генерал артылерыі (1651), падскарбі земскі (1652), гетман польны (1654). Пераемнік бацькі на пасадах старасты маркаўскага і пуньскага, брата Крыштофа на пасадзе старасты веліжскага; староста ашмянскі, ладзейскі, пашырвінцкі, адміністратар Алыцкай і Магілёўскай эканомій. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* удзельнічаў ва ўзяцці Пінска, аблозе Бабруйска, *Лоеўскай бітве 1649*. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* вёў ваен. дзеянні супраць рас. войск у няўдалых кампаніях 1654 і 1655, у час якіх канфліктаваў з вял. гетманам ВКЛ Я.Радзівілам. Калі апошні перайшоў на бок шведаў, захаваў вернасць каралю Яну II Казіміру. У 1656 перамог войска шведаў і Б.Радзівіла ў бітве пад Просткамі, у 1657—58 вёў кампаніі супраць шведскіх і рас. войск, трапіў у рас. палон, вызвалены за некалькі месяцаў да смерці. У шлюбе з Магдаленай з роду Канапацкіх меў дачок Тэрэзу (жонку Багуслава Служкі, потым Яна Сапегі) і Соф'ю (жонку Аляксандра Пшыемскага), сына Багуслава (1660?—1744), які з 1722 быў біскупам-суфраганам беларускім, з 1724 біскупам смаленскім.



Да арт. **Гасеўскія**. В.А.Гасеўскі. Мастак Д.Шульц. Сярэдзіна 17 ст.

Прадстаўнікі іншых галін роду Г. вядомы як павятовая шляхта ў розных паветах ВКЛ і Польшчы да канца 18 ст.

*Літ.*: Boniecki A. Herbarz polski. Warszawa, 1903. T. 6. S. 315—318.

*Вячаслаў Насевіч.*

**гаспадар**, тытул манарха ў ВКЛ, тое, што *вялікі князь*.

**гаспадарскі суд**, велікакняжацкі суд, вышэйшы суд ВКЛ. Дзейнічаў у складзе *вялікага князя* і *Рады Вялікага княства Літоўскага* або толькі Рады. Склад Г.с. законам не быў рэгламентаваны, але на практыцы ў якасці засядацеляў абавязкова павінны былі прысутнічаць радныя паны. Іх колькасць не вызначалася (2—3 чал., 20—30 і болей), залежала ад важнасці справы, месца і часу пасяджэння, сац. і службовага становішча істца і адказчыка. На правах Г.с. дзейнічалі *соймавы суд* і *камісарскі суд*. Першапачаткова соймавы суд праводзіўся вял. князем і панамі-радай у час соймаў. Паводле Статута ВКЛ, справы ў соймавым судзе разглядалі паны-рада і 8 дэпутатаў сойма. Закон таксама вызначаў справы, падлеглыя гэтаму суду. Камісарскі суд не быў пастаянным, а ўтвараўся вял. князем і панамі-радаю для разгляду адной ці некалькіх канкрэтных спраў, часцей за ўсё па спрэчках аб зямельнай уласнасці або павіннасцях жыхароў пэўнай мясцовасці. Рашэнне камісарскага суда падлягала зацвярджэнню вял. князем і панамі-радаю. Да сярэдзіны 16 ст. падсуднасць спраў Г.с. была даволі шырокай. Першапачаткова кожная справа магла разглядацца ў гэтым судзе па 1-й або 2-й інстанцыі. Кожны вольны чалавек меў права звярнуцца ў гэты суд з іскам або скаргай. Першыя абмежаванні падсуднасці спраў Г.с. былі ўведзены Статутам ВКЛ 1529, які прадпісваў разглядаць справы спачатку ў мясц. судах. Канчатковы інстанцыйны парадак разгляду спраў быў уведзены Статутам 1566. Паводле Статута 1588, Г.с. па 1-й інстанцыі былі падсудны справы па дзярж. злачынствах, па исках да шляхты аб выпатрабаванні дзярж. маёнткаў і зямель, аб прыналежнасці да саслоўя шляхты, па іссках, што закраналі інтарэс дзярж. скарба, па скаргах на незаконныя дзеянні вышэйшых службовых асоб. Да ўтварэння *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага* ў 1582 Г.с. былі падсудны ўсе справы па апеляцыйных скаргах на пастановы вышэйшых судоў.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Суд господарей и их советников в Великом княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Журн. Мин-ва юстиции. 1909. № 6; 1910. № 2; Юхо І. Крыніцы беларуска-літоўскага права. Мн., 1991.

*Язэп Юхо.*

**гасціны двор**, комплекс збудаванняў і плошча ў горадзе ці мястэчку, дзе гандлявалі і часова пражывалі купцы і захоўваліся іх тавары. Узніклі ў перыяд ранняга феадалізму, былі пашыраны ў 13—19 ст. Звычайна будаваліся ў цэнтры населенага пункта на адкрытай плошчы, дзе адбываўся штодзённы гандаль, а ў вызначаныя дні года — кірмашы. Канструкцыя і выгляд Г.д. (простыя драўляныя павеці, драўляныя ці каменныя крамы, каменныя, жалезныя ці шкляныя павільё-

ны з асобнымі пакоямі для захоўвання і рэалізацыі тавараў і інш.) залежалі ад багацця горада (мястэчка). З 13 ст. вядомы Г.д. ў Віцебску, з 14 ст. — у Гародні, Берасці, Слоніме і інш. беларускіх гарадах. У Гародні Г.д. размяшчаўся на 4-вугольнай плошчы, забудаванай з усіх бакоў мяснымі і хлебнымі радамі, крамамі. У 16—17 ст. у Гародні былі ўжо 3 Г.д.: 2 у правабярэжнай частцы, 1 за Нёманам. У Берасці Г.д. знаходзіўся ў замкавай частцы горада, у 2-й пал. 17 ст. ён быў перанесены ў новы цэнтр, на востраў, дзе знаходзіліся ратуша і крамы. У Менску ў 16 ст. Г.д. былі ў 3 месцах: на Троіцкай гары, Ніжнім (Старым) рынку, Высокім рынку. У Магілёве ў 16—17 ст. Г.д. знаходзіўся каля гарадской ратушы, тут размяшчаліся шавецкі, рыбны, жалезны, мясны, палатняны, саляны, пекарскі, ганчарны, кавальскі, гандлёвыя рады, купецкі дом, важніца, шынок, складскія памяшканні, гарадская лазня, пастрыгальня і інш. будынкі. У 1-й пал. 19 ст. большасць гарадоў і гандлёвых мястэчак Беларусі мелі Г.д. У 15—16 ст. спецыяльныя Г.д. для купцоў з Беларусі і Літвы існавалі ў Бранску, Вязьме, Маскве і інш. рас. гарадах.

***Вячаслаў Швед.***

**гаць**, г р э б л я, шлях, пракладзены ў нізкім балоцістым месцы, часта з мастамі і пераходамі цераз ручаіны і рэкі. Патрабавала вял. увагі, асабліва ў час інтэнсіўнага руху гаспадарчых грузаў, пасажырскіх экіпажаў і перамяшчэнняў войск. Аснову Г. складаў насціл з галля, радзей бярвення. На балоцістых мясцінах Г. будавалі зімой, на дрыгвяністых балотах замест Г. ўзводзілі масты на пáлях (на 20—50 см па-над балотам). Г. адыгрывалі важную ролю ў гаспадарчым і грамадскім жыцці ВКЛ. Статут ВКЛ 1588 падрабязна рэгламентаваў, дзе і якія павінны быць дарожныя збудаванні, у т.л. і Г., хто павінен рабіць і рамантаваць іх. Уладальнікі маёнткаў, на чыіх землях былі масты і Г., за іх карыстанне спаганялі з людзей грэбельнае, маставое і інш. паборы, але і адказвалі матэрыяльна за стан дарожных збудаванняў. Калі па віне ўладальніка Г. затапляліся чужыя землі, ён павінен быў плаціць пацярпеламу за страты. У сярэдзіне 19 ст. ў Мінскай губ. толькі на паштовых і ваенна-гандлёвых дарогах (даўжыня 3912 вёрст) налічвалася 420 мастоў і 1522 Г. Па неабсяжных балотах, асабліва на Палессі, Г. цягнуліся часам на дзесяткі вёрст. Такія Г. злучалі, у прыватнасці, Азяраны з Тонежам і Дзякавічамі (Мазырскі пав.), Здзітаў з Холмскам і Драгічынам (Брэсцкі пав.) і інш. З усталяваннем індустрыяльных форм дарожнага будаўніцтва і паўсюднай меліярацыяй Г. як рукатворныя штучныя збудаванні страцілі практычнае значэнне.

***Віктар Цітоў.***

**Гаштольд** (Г а ш т а ў т) Альбрэхт Марцінавіч (?—снеж. 1539), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. З роду *Гаштольдаў*. У 1501 дваранін вял. князя Аляксандра, у 1503—06 намеснік новагародскі, у 1505—09 падчашы ВКЛ, у 1508—13 ваявода новагародскі, у 1513—19 полацкі, у 1519—22 троцкі, з 1522 ваявода віленскі і канцлер ВКЛ; стараста бельскі з 1513, мазырскі з 1514, гарадзенскі да 1533. Рана страціў бацькоў і выхоўваўся сваякамі. Каля 1492, відаць, вучыўся ў Кракаўскім ун-це. У 1503 удзельнічаў у паходзе супраць крымскіх татараў, які скончыўся перамогай пад Давыд-Гарадком. У 1505 абараняў ад татараў Новагародак. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08* камандаваў у 1507 абаронай Смаленска, у 1508 удзельнічаў у баях пад Оршай. Не падтрымаў бунт князя М.Л.Глінскага, але ў 1509—10 быў зняволены, напэўна, з-за інтрыг свайго праціўніка М.Радзівіла, з якім і пасля варагаваў (справа даходзіла да ўзброеных нападаў). Суправаджаў Жыгімонта І Старога на *Венскі з'езд 1515*. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* на чале полацкага войска 29.7.1518 разбіў ваявод Васіля III пад Полацкам. Смерць Радзівіла (1521) адкрыла Г. шлях да заняцця вышэйшых дзярж. пасад. Выступаў супраць уніі ВКЛ з Польскім каралеўствам, таму ў 1522 падтрымаў план каралевы Боны абвясціць спадкаемцам трона ВКЛ Жыгімонта Аўгуста яшчэ пры жыцці яго бацькі, Жыгімонта Старога. У наступныя гады Г. варагаваў з Бонай, якая імкнулася адабраць у Г. дзярж. маёнткі, і з гетманам К.І.Астрожскім, які арыентаваўся на саюз з Польшчай. Устанавіў добрыя адносіны з прускім герцагам Альбрэхтам, перапісваўся з ім наконт Ф.Скарыны. У 1529 атрымаў графскі тытул ад рымскага папы Клімента VII, а ў 1530 — тытул графа «з Мураваных Геранён» ад імператара Карла V. Пад наглядам Г. быў складзены *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529*. Сабраў вял. бібліятэку, дзе акрамя кірылічных славянскіх рукапісаў былі кнігі на лац., польскай і чэшскай мовах (вопіс б-кі захаваўся ў Метрыцы ВКЛ, аднак прыналежнасць яе да Г. некат. даследчыкі ставяць пад сумненне). У шлюбе з Соф'яй, адзінай дачкой і спадкаемніцай князя В.М.Вярэйскага, меў сына Станіслава. Жонка прынесла ў пасаг Г. маёнткі Валожын у Ашмянскім пав., Койданава, Радашковічы і Уса ў Менскім пав., Любча на Дняпры. У спадчыну ад бабкі, жонкі кн. С.С.Гальшанскага (Трабскага) атрымаў двор Добасна каля Бабруйска, Туршчу і Быхаў. Шляхам куплі, замен, застаў і гвалтоўных захопаў сабраў вялізную латыфундыю. Маёнткі Г. ляжалі па ўсім ВКЛ, пераважна на Падляшшы, у Ашмянскім, Троцкім, Віленскім, Луцкім і Уладзімірскім паветах. У 1528, як найбуйнейшы магнат ВКЛ, выстаўляў у войска 466 коннікаў. Дзярж. маёнткі на Падляшшы (Бельск, Бранск, Сараж, Нараў, Кляшчэлі) быў вымушаны ў 1533 уступіць каралеве Боне.



А.**Гаштольд**. Надмагілле ў Віленскім кафедральным касцёле. Скульптар Бернардзінус Занобі дэ Джыянsocіс. 1540.

*Літ.*: K u ź m i ń s k a M. Olbracht Marcinowicz Gasztołd // Ateneum Wileńskie. 1927—28. Z. 13—14; Senoji Lietuvos literatūra. Kn. 5. Vilnius, 2000.

***Валерый Пазднякоў.***



**Гаштольды**, Гаштаўты, шляхецкі род герба «Габданк». Паводле родавай легенды, запісанай у бел.-літ. летапісах, родапачынальнікам быў Гаштольд герба «Калюмны», сын Крумпя, гетман вял. князя Гедзіміна і першы віленскі ваявода. Паводле падання, яго сын, таксама Гаштольд (хроснае імя Пётр), запрасіў з Польшчы 14 манахаў-францысканцаў і заснаваў для іх кляштар у Вільні; пасля іх пакутніцкай смерці прывёз яшчэ 36 манахаў, а сам таксама загінуў пакутніцкай смерцю (паводле інш. варыянта падання, стаў першым біскупам віленскім). Дакументальна Г. вядомы з сярэдзіны 14 ст., калі мелі маёнткі ў Жамойці, каля Вялены на р. Нёман. У канцы 14 ст. атрымалі землі на Ашмяншчыне (родавае гняздо — Мураваныя Геранёны). У 15 ст. Г. сталі найбольш значным магнацкім родам ВКЛ, прадстаўнікі якога актыўна адстойвалі дзярж. суверэнітэт княства. Найб. вядомыя:

Гаштольд (?—1364), родапачынальнік Г. Паводле «Хронікі» Віганда з Марбурга, у 1364 кіраваў абаронай замка Вялена ад крыжакоў. Страціўшы надзею на дапамогу, здаў замак рыцарам і быў імі забіты.

Андрэй (?—пасля 1404), відаць, сын Гаштольда. Стараста віленскі ў 1387 і крэўскі ў 1398—1401. Удзельнічаў у падпісанні *Салінскага дагавора 1398*, Віленскага акта уніі ВКЛ з Польшчай 1401, *Рацёнжскага дагавора 1404*. Верагодна, быў жанаты з дачкой польскага пана Міхала Аўданца з Бучача. Меў сыноў Талівойша, Пятра (у 1440 намеснік слонімскі) і Івашку.

Івашка (Ян; ?—1458), сын Андрэя. У час заключэння *Гарадзельскай уніі 1413* атрымаў герб «Габданк». Стараста дарсунішскі ў 1422, маршалак надворны вял. князёў Вітаўта і Свідрыгайлы ў 1426—35, намеснік смаленскі ў 1436—40, ваявода троцкі ў 1440—43 і віленскі з 1443. Удзельнічаў у заключэнні *Мельнскага міра 1422*, у пасольстве 1430 да крыжакоў, у падпісанні Хрыстмемельскага дагавора 1431 з Інфлянцкім ордэнам. Гарачы прыхільнік Свідрыгайлы, на яго баку ўдзельнічаў у бітве з польскім войскам пад Луцкам у 1431 і трапіў у палон да Ягайлы. Пасля перайшоў на бок вял. князя Жыгімонта Кейстутавіча. Падпісаў Гарадзенскі 1432 і Троцкі 1433 акты уніі ВКЛ з Польшчай. Пасля забойства Жыгімонта Кейстутавіча (1440) стаў на чале групоўкі, якая абрала на трон ВКЛ вял. князя Казіміра. Фактычна быў рэгентам пры малалетнім вял. князю. У 1444 дамогся вяртання ў склад ВКЛ Падляшша. Быў актыўным прыхільнікам незалежнасці ВКЛ ад Польскага каралеўства і далучэння да ВКЛ Валыні і Падолля. З абраннем Казіміра на польскі трон перайшоў у апазіцыю да яго і рыхтаваў планы дзярж. перавароту. У 1433 атрымаў ад Жыгімонта Кейстутавіча прывілей на 26 вёсак і мяст. Тыкоцін, а ў 1440-х г. ад Казіміра — г. Дарагабуж. Валодаў маёнткамі Мураваныя Геранёны і Свянцяны ў Ашмянскім пав., Дзевянішкі ў Віленскім пав., Тракелі ў Лідскім пав., Палонна ў Луцкім пав. і інш. Некаторыя з іх былі канфіскаваныя Казімірам, а пасля вял. князем Аляксандрам вернуты ўдаве Івашкі. Першым шлюбам быў жанаты з Даротай з роду Завішаў (?), пасля з Лізаветай з невядомага роду. Меў сыноў Войцеха, Марціна і Юрыя, дачок Марыю (жонка кн. Сямёна Алелькавіча) і Аляксандру (манашка-францысканка).

Войцех (Войтка, Альбрэхт; ?—пасля 1447), сын Івашкі. Маршалак надворны вял. князя Казіміра ў 1443—47.

Марцін (?—1483/84), сын Івашкі. Намеснік навагародскі ў 1464—71, ваявода кіеўскі ў 1471—80 і троцкі з 1480, адначасова маршалак земскі ў 1477—79. У адрозненні ад бацькі быў лаяльны да вял. князя Казіміра. Кіеўскае ваяводства атрымаў пасля смерці свайго шваграа, апошняга ўдзельнага кіеўскага князя Сямёна Алелькавіча. Неаднаразова адбіваў напады крымскіх татараў. Удзельнічаў у судзе над правасл. князямі, што рыхтавалі *змову 1481*. Значна павялічыў колькасць родавых маёнткаў, набыў Задзвею, Котлава, Трыседы на Меншчыне, Петрашава каля Вільні і інш. Быў жанаты з дачкой князя С.С.Гальшанскага, пасля з Ганнай, дачкой князя Ю.С.Гальшанскага (Трабскага); меў сына Альбрэхта.

Альбрэхт (?—1539), гл. А.*Гаштольд*.

Станіслаў (каля 1507—18.12.1542), сын Альбрэхта. Ваявода навагародскі ў 1530—42 і троцкі ў 1542. Самастойнай паліт. ролі не адыгрываў і заставаўся памочнікам бацькі. На думку М.М.Улашчыка, найб. верагодны ініцыятар стварэння легендарнай гісторыі пра пачаткі ВКЛ, запісанай у бел.-літ. летапісах. Быў жанаты з Барбарай, дачкой вял. гетмана Ю.Радзівіла (пазней жонка Жыгімонта II Аўгуста). Са смерцю Станіслава род Г. згас. Родавыя маёнткі перайшлі да Жыгімонта II Аўгуста, на іх аснове былі створаны Трабскае, Радашковіцкае, Валожынскае і Любчанскае староствы.

*Літ.*: Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3; Ярашэвіч А. Гаштольды // Спадчына. 1992. № 6.

***Валерый Пазднякоў.***

**гвалты**, адработачная феадальная павіннасць сялян ВКЛ; тое, што *згоны*.

**Гваньіні** (Гвагнін, Guagnini) Аляксандр (1534, г. Верона, Італія—1614), польскі гісторык. З 1550-х г. у Польшчы. Служыў ротмістрам у войску ВКЛ. З 1561 удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, камендант Віцебска. Умацаваў гарадскую фартыфікацыю, разам з гарнізонам неаднаразова рабіў вайсковыя экспедыцыі да Невеля, Веліжа. У бітве каля Улы 1568 паранены, узяты ў палон рас. атрадам, але адбіты. У 1574 пакінуў вайсковую службу, але ў 1576 вярнуўся, зноў удзельнічаў у Інфлянцкай вайне. Выязджаў у Венецыю, Рым, Швецыю, вёў гандлёвыя справы. Пасяліўся ў Кракаве, дзе ў 1578 выдаў на лац. мове «*Хроніку Еўрапейскай Сарматыі*» (2-е выд. 1581). На Беларусі была вядома ў выданні на польскай мове (Кракаў, 1611), прысвечаным каралю Стафану Баторыю. Кніга багата ілюстравана, у ёй шмат звестак па гісторыі і геаграфіі Польшчы і ВКЛ, апісаны гарады і крэпасці Беларусі,




А.**Гваньіні**. Дрэварыт з кн. «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі». Кракаў, 1611.

матэрыяльная і духоўная культура, звычаі і абрады насельніцтва Беларусі, гал. чынам Верхняга Падняпроўя. Пры перавыданні Г. дадаў звесткі пра Інфлянцкую вайну, з паходам Стафана Баторыя на Пскоў (1581) уключна. Нягледзячы на шматлікія запазычанні ў тэксце, асабліва ў М.*Стрыйкоўскага*, якія служыў пад камандай Г., ёсць у кнізе і новыя матэрыялы з часоў праўлення ў ВКЛ і Польшчы Жыгімонта II Аўгуста (1548—72). Хроніка Г. была перакладзена на італьянскую, чэшскую і інш. мовы. У час войнаў Рэчы Паспалітай з Рас. дзяржавай яна адыграла важную прапагандысцкую ролю ў Еўропе.

*Тв.*: Рус. пер.: Описание Московии / Пер. Г.Г.Козловой. М., 1997.

*Літ.*: Сапунов А.П. Витебская старина. Т. 4. Витебск, 1885.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**геаметр**, гл. *Мернік*.

**Гедзімін**, Гедымін (каля 1275—1341), вялікі князь літоўскі прыблізна з 1316. Позняя традыцыя, зафіксаваная ў бел.-літ. летапісах, лічыла Г. сынам *Віценя*, аднак у дыпламатычнай перапісцы Г. з рыжскім магістратам ён называецца братам Віценя. Некат. аўтары (Т.Васілеўскі, М.Ермаловіч) выказвалі меркаванне, што пры перапісванні дакумента былі пераблытаны блізкія па напісанні словы frater (брат) і pater (бацька), таму роднасныя сувязі паміж Віценем і Г. нельга лічыць дакладна высветленымі. Ужо ў 2-й пал. 15 ст. існавала і тэндэнцыйная версія, зафіксаваная ў польскай хроніцы Я.Длугаша і ў маскоўскіх радаводах (Чудаўская аповесць, Пасланне Спірыдона-Савы), якая абвяшчала Г. конюхам Віценя, які нібыта забіў свайго гаспадара і захапіў яго ўладу. Гэта версія, відаць, была створана з мэтай дыскрэдытацыі пануючай дынастыі ВКЛ. Панаванне Г. пачалося паміж кастр. 1315 (апошняя згадка Віценя) і чэрв. 1317, калі аб'ектам нападу Тэўтонскага ордэна стаў замак Г., названы ў гонар свайго заснавальніка. Не пазней за 1320 Г. заснаваў мураваны замак у Вільні, які стаў яго гал. рэзідэнцыяй. Пачатак панавання Г. вызначыўся стварэннем у ВКЛ самастойнай *Літоўскай праваслаўнай мітраполіі*, падпарадкаванай непасрэдна канстанцінопальскаму патрыярху (існавала ў 1317—30, цэнтр — Навагарадак), і спробай нармалізаваць адносіны з каталіцкім Захадам. Каля 1321 Г. пабудаваў у Вільні касцёл для манахаў-францысканцаў і аднавіў іх касцёл у Навагародку, спалены ў выніку нападу крыжакоў. У маі 1323 Г. праз Рыгу звярнуўся з шэрагам лістоў да рымскай курыі, Ганзейскага саюза, саксонскіх рэзідэнцый францысканскага і дамініканскага ордэнаў. У гэтых лістах Г., тытулаваны «каралём Літвы і Русі, уладаром і князем Жамойці», выказваў намер прыняць каталіцкае хрышчэнне, запрашаў у ВКЛ манахаў



**Гедзімін**. Гравюра з кн. А.Гваньіні «Хроніка Еўрапейскай Сарматыі». 16 ст.

і майстроў розных спецыяльнасцей, гарантаваў ім розныя льготы і прывілеі. 2.10.1323 Г. заключыў мір з рыжскім арцыбіскупам і магістратам Рыгі (гл. *Дагавор 1323*). Межы ВКЛ і Лівонскага ордэна абвяшчаліся адкрытымі для гандлю і вольнага перамяшчэння людзей. Адносіны з Тэўтонскім ордэнам на прускай мяжы засталіся варожымі, у пач. 1324 адбыўся шэраг нападаў на Жамойць, у ліпені — аблога літоўцамі ордэнскага замка Хрыстмемель. У кастр. 1324 рымскі папа Іаан XXII накіраваў сваіх легатаў, упаўнаважаных ахрысціць Г. Аднак у апошні момант Г. адмовіўся ад хрышчэння, задаволіўшыся мірам з Тэўтонскім ордэнам, заключаным у ліст. 1324 з дапамогай легатаў.

У тыя ж гады Г. разгарнуў экспансію на Русі. Першымі яе праявамі сталі пачатак княжання ў Віцебску ў пач. 1320-х г. сына Г. *Альгерда*, які незадоўга да таго ажаніўся з дачкой апошняга віцебскага князя з роду Рурыкавічаў, і саюз з Цвярскім княствам, замацаваны шлюбам дачкі Г. Марыі з цвярскім князем Дзмітрыем Міхайлавічам (1320). У 1322 іншы зяць Г. і яго намеснік у Гародні *Давыд* стаў на кароткі час князем Пскова, што прывяло да выхаду Пскова з-пад кантролю Вял. Ноўгарада. У 1323 адбыўся набег літоўскага войска на наўгародскую воласць Лукі (Вял. Лукі). Каля 1322 пад уладу ВКЛ перайшлі Берасцейшчына і Падляшша, аб чым паведамляюць познія бел.-літ. летапісы (ускосна гэта пацвярджаецца тым, што ў пераліку ваявод Галіцка-Валынскага княства 1335 адсутнічаюць ваяводы з гэтых зямель). Відаць, далучэнне Берасця адбылося ў выніку ваеннай акцыі Г. Актывізацыя палітыкі на Русі выклікала канфлікт з Залатой Ардой. У час візіту папскіх легатаў Г. быў моцна заняты татарскімі справамі, а ў 1325 адбыўся татарскі паход на ВКЛ. Тым не менш сфера ўплыву Г. на Русі няўхільна пашыралася. Менскі князь *Васіль* быў васалам Г. і ў 1326 удзельнічаў у яго пасольстве ў Ноўгарад, вынікам якога стала заключэнне міру з Ноўгарадам і аднаўленне міру з Лівоніяй. У Полацку княжыў брат Г. *Воінь*, які ўзначаліў гэтае пасольства. У Пскове пасля Давыда княжыў цвярскі князь Аляксандр Міхайлавіч (1327—29), які абапіраўся на падтрымку Г. Пад непасрэдную ўладу Г. адышлі ў 1320-я г. Таропецкае і Ржэўскае княствы на Пн Смаленскай зямлі (ржэўскія гарады Асечан і Расна на верхняй Волзе згадваюцца як «літоўскія» ў 1335). Адначасова Г. завязаў цесныя адносіны з Польшчай і ў 1325 аддаў сваю дачку *Альдону* (Ганну) за Казіміра, сына караля Уладзіслава Лакатка. У 1326 Г. накіраваў войска ў 1200 коннікаў на чале з Давыдам Гарадзенскім, якое спустошыла зямлю варожага Польшчы Брандэнбургскага маркграфства.

У 1328 Г. умяшаўся ў канфлікт паміж рыжскім магістратам і Лівонскім ордэнам, напэўна, спадзеючыся, што гэта прывядзе да ліквідацыі ордэна. Восенню 1329 ён па просьбе рыжан спустошыў уладанні ордэна, а вясной 1330 — уладанні рыжскага арцыбіскупа. Аднак канфлікт скончыўся паражэннем гараджан і заключэннем імі міру з ордэнам (30.3.1330), што прывяло да аднаўлення вайны паміж ВКЛ і крыжакамі. Сумесны напад прускай і лівонскай галін ордэна на Жамойць адбыўся ўжо ў сак. 1330. У адказ у вер. 1330 Г. паслаў войска на дапамогу польскаму каралю, які ажыццявіў напад на Прусію. У далейшым напады ордэнскіх рыцараў на ВКЛ сталі рэгулярнымі: яны адбываліся ў 1332, 1333 (лівонскае войска на ладдзях дасягнула Полацка), 1334 (да Полацка), 1339, 1340.



**Гедзімінавічы**. Генеалагічнае дрэва.
Фрагмент гравюры А.Тарасевіча. 1672.

Аднаўленне вайны на 3 не спыніла ўплыву ВКЛ на ўсх. справы, але ўскладніла яго. Саюзнік Г. цвярскі князь Аляксандр у 1329 страціў Пскоў, але ў 1331 паўторна атрымаў яго «из литовскыя рукы» і заставаўся пскоўскім князем да 1337. У 1331 Г. зрабіў няўдалую спробу правесці на вакантную пасаду наўгародскага епіскапа свайго стаўленіка Арсенія. Пра памер уплыву Г. на Русі ў гэты час сведчыць тое, што альтэрнатыўны кандыдат у епіскапы, якога Г. імкнуўся перахапіць, праехаў з Валыні ў Ноўгарад толькі кружным шляхам праз Бранск і Таржок, прычым каля Кіева яго ледзь не захапіў мясцовы кн. Фёдар, які дзейнічаў у інтарэсах Г. Саюзнікамі Г. былі ў той час смаленскі князь Іван Аляксандравіч, казельскі князь Аляксандр Мсціславіч (жанаты з дачкой Г.). У 1331 Г. аддаў сваю дачку Яўфімію за галіцка-валынскага князя Баляслава-Юрыя. У 1333 сын Г. *Нарымонт* (Глеб) быў запрошаны князем у Ноўгарад, што было праявай паліт. саюзу паміж ВКЛ і Ноўгарадам, накіраванага супраць маскоўскага князя Івана Каліты. Аднак Г. пазбягаў адкрытага канфлікту з Масквой і ў 1333 аддаў дачку Аўгусту за Сямёна, сына Каліты. Да 1338 Нарымонт з'ехаў з Ноўгарада і стаў княжыць у Полацку і, магчыма, Пінску, але захаваў сваіх намеснікаў у шэрагу валасцей, падараваных яму наўгародцамі (Ладазе, Арэшку, Карэле і палове Капор'я). Бел.-літ. летапісы паведамляюць пра заваяванне Г. Кіеўскай зямлі, але гэты сюжэт большасць даследчыкаў лічыць міфічным. Кіевам у 1331—63 валодаў князь Фёдар, які падпарадкоўваўся татарскаму баскаку. Часам яго атаясамліваюць з Фёдарам, братам Г., але больш верагодна, што кіеўскі князь не меў дачынення да літ. княжацкага роду, хаця часам дзейнічаў у саюзе з Г. Магчыма, спробы пашырыць уплыў ВКЛ на Кіеў выклікалі новы татарскі паход у 1338. У 1340 памёр апошні галіцка-валынскі князь Баляслаў-Юрый, што дазволіла ўладкавацца на Валыні малодшаму сыну Г. *Любарту*. Канчатковы падзел галіцка-валынскай спадчыны паміж ВКЛ, Ардой і Польшчай адбыўся ўжо пасля смерці Г. Ён загінуў, напэўна, зімой 1341 пры аблозе ордэнскага замка Баербург. Існуе версія пра атручэнне Г.

Пад панаваннем Г. ВКЛ ператварылася ў моцную ўсх.-еўрап. дзяржаву, тэрыторыя якой павялічылася ўдвая. Апрача сталіцы Вільні, мураваныя замкі былі ўзведзены ў Медніках, Лідзе, Крэве, Віцебску. Пачалося запазычанне першых элементаў зах.-еўрап. культуры. Адначасова Г. паклаў пачатак шырокай экспансіі на Русі, якая прадоўжылася ў наступныя дзесяцігоддзі. Яго шматлікія нашчадкі ўтварылі дынастыю *Гедзімінавічаў*.

*Літ.*: Антонович В. Б. Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. Киев, 1878; Послания Гедимина / Подготовили В.Пашуто и И.Шталь. Вильнюс, 1966; Nikžentaitis A. Gediminas. Vilnius, 1989; Яго ж. Гедиминас // Вильнюс. 1990. № 4; Насевіч В. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993; Rowell S.C. Lithuania ascending: A pagan empire within East-Central Europe, 1295—1345. Cambridge, 1994; Gedimino laiškai: Chartularium Lithuaniae res gestas magni ducis Gedeminne illustrans / Tekstus, vertimus bei komentarus parengė S.C.Rowell. Vilnius, 2003; Prekop D. Wojna zakonu krzyżackiego z Litwą w latach 1283—1325. Toruń, 2004.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Гедзімінавічы**, дынастыя вялікіх князёў ВКЛ. Верагодны пачынальнік роду Скалмант (Скаламенд, сярэдзіна 13 ст.). Назву атрымалі ад імя яго ўнука *Гедзіміна*, які меў дзяцей Мантоўта, Нарымонта, Альгерда, Кейстута, Яўнута, Карыята, Любарта. У 14 ст. большасць Г., якія дагэтуль былі язычнікамі, прынялі праваслаўе, некаторыя — каталіцтва, засвоілі слав. культуру. Унук Гедзіміна Ягайла, заключыўшы Крэўскую унію 1385, стаў каралём польскім і заснавальнікам дынастыі *Ягелонаў*, якая правіла ў Польшчы і ВКЛ (да 1572), Чэхіі і Венгрыі. З Г. вылучыліся таксама *Альгердавічы* і *Кейстутавічы*, галіны велікакняжацкай дынастыі ВКЛ, і буйныя княжацкія роды Беларусі, Украіны, Літвы і Расіі: *Альелькавічы*, *Бельскія*, *Вішнявецкія*, Галіцыны, Гуркавічы, *Карыбутавічы*, *Карыятавічы*, Кобрынскія, Куракіны, *Мсціслаўскія*, *Нарымонтавічы*, *Сангушкі*, *Трубяцкія*, Хаванскія, *Чартарыйскія*.

*Літ.*: Tęgowski J. Pierwsze pokolenia Giedyminowiczów. Wrocław, 1999.

**Гедройц** Рамуальд Тадэвуш (7.2.1750, в. Бобчын Браслаўскага пав.—15.10.1824), адзін з кіраўнікоў *паўстання 1794*. З роду *Гедройцаў*. У 1765 кадэтам уступіў у 2-і пяхотны полк ВКЛ. На баку *Барскай канфедэрацыі* змагаўся пад Гародняй, Моўчаддзю (1769), Бездзежам (1771), у бітве пад Сталавічамі (1772) паранены. З 1778 намеснік каменданта брыгады літ. гусараў, пасол на Гарадзенскі сойм 1784. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794, чл. *Найвышэйшай Літоўскай рады*, адзін з найбліжэйшых паплечнікаў яе кіраўніка Я.*Ясінскага*. Пазней змагаўся на тэр. Курляндыі, атрымаў чын ген.-лейтэнанта, узнагароджаны ганаровым пярсцёнкам «Айчына свайму абаронцу». Пасля паражэння паўстання на тэр. ВКЛ з 5-тысячным атрадам прыбыў у Варшаву і прымаў удзел у яе абароне. Пад Радошыцамі (Польшча) трапіў у палон. Праз некалькі месяцаў выехаў у Парыж, дзе ўвайшоў у склад Польскай дэпутацыі, па даручэнні якой у 1796 прыбыў у Жамойць для падрыхтоўкі паўстання. Пасля раскрыцця змовы ўцёк у Саксонію. Перапісваўся з Т.Касцюшкам, які знаходзіўся ў ЗША, вітаў яго вяртанне ў Парыж. У час Варшаўскага княства чл. Ваеннага камітэта (1812), пазней яго старшыня. 12.2.1813 пад Сераковам (Польшча) разам з сынам Юзафам трапіў у палон і высланы ў Архангельск. Амаль праз 2 гады вярнуўся ў Варшаву і ўступіў у армію Каралеўства Польскага ў чыне ген. дывізіі, чл. Ваеннага камітэта.

*Літ.*: Mościcki H. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. Wilno, 1913. T. 1. S. 387, 420—428; Ogiński M. Mémoires sur la Pologne et les polonais depuis 1788 jusqu'á la fin de 1815. Paris, 1826. T. 2. S. 103.

***Наталля Мазоўка.***

**Гедройцы**, княжацкі род гербаў «Порай» і «Кітаўрас». З удзельных князёў, уладанні якіх знаходзіліся ў Гедройцах і іх ваколіцах на Пн ад Вільні. Паводле бел.-літ. летапісаў, гісторыкаў М.Стрыйкоўскага і А.Каяловіча, Г. паходзяць ад легендарнага Даўспрунка, што прыбыў у Літву з Палямонам. Нібыта нашчадак Даўспрунка Гедрус (або Даўмонт) заснаваў Гедройцы і назваўся князем Гедройцкім. Нягледзячы на фантастычнасць гэтых звестак, магчыма, што Г. паходзілі з княжацкай дынастыі, што правіла ў Літве да Гедзімінавічаў. З 16 ст. карысталіся прыдомкам Даўмонт, што павінна было сведчыць пра іх стараж. княжаскае паходжанне. Першае дакументальнае ўпамінанне Г. адносіцца да 1399, калі Вітаўт разглядаў іх судовую справу з віленскім біскупам. У час заключэння Гарадзельскай уніі 1413 прынялі герб «Порай». У 1-й пал. 15 ст. жылі князі Война, Гоюл і Ягайла Г., якія падпісалі як сведкі міжнар. акты Свідрыгайлы і Жыгімонта Кейстутавіча. Ужо ў 16 ст. род Г. моцна разгалінаваўся, многія яго прадстаўнікі страцілі княжацкі тытул. Паводле попіса войска ВКЛ 1528 ваеннаабавязанымі былі 85 Г. (князі і баяры), якія выступалі на вайну асобнай харугвай. Адна з княжацкіх ліній роду Г. карысталася прозвішчам Юрага. У 15 ст. ў Кракаўскім ун-це вучыліся 6 Г. Найб. вядомыя:

Герман (?—1439). У 1419 запісаўся ў Кракаўскі ун-т, дзе набыў ступені бакалаўра (1426) і магістра (1434). Атрымліваў дапамогу ад караля Ягайлы і каралевы Соф'і Гальшанскай. Канонік кракаўскі з 1433, схаластык улацлаўскі з 1435.

Міхал (каля 1425—4.5.1485), сын Юрыя. У Быстрыцы (Віленскі пав.) уступіў у ордэн аўгусцінцаў, вучыўся ў Кракаўскім ун-це, дзе набыў ступень бакалаўра (1465), пасля сакрысціян у касцёле св. Марка ў Кракаве. Быў нямоглы фізічна (кульгавы хворы недаростак). Набыў вядомасць набожным аскетычным жыццём, лічыўся прадказальнікам і цудатворцам. Пасля смерці яго называлі благаславёным. Культ Міхала ў ВКЛ падтрымлівалі члены роду Г., кляштар у Відзінішках.

Матэвуш Барталамеевіч (каля 1500—каля 1563). Дзяржаўца кернаўскі і мейшагольскі ў 1547—60, харужы гедройцкі ў 1557, намеснік (падваявода) віленскі з 1560, маршалак гаспадарскі з 1562.

Мальхер Матушавіч (Мельхіёр; 1536—6.4.1609), сын Матэвуша Барталамеевіча. З 1550 вучыўся ў Каралявецкім, Вітэнбергскім, Лейпцыгскім ун-тах. Пасол ад Віленскага пав. на Люблінскі сойм 1569. З 1572 святар, кусташ віленскай капітулы. У 1575 абраны капітулай біскупам жамойцкім. Удзельнічаў у пасольстве ад ВКЛ у Францыю да будучага караля Генрыка Валезы. У 1576 зацверджаны ў біскупскай годнасці каралём і папам рымскім. Змагаўся з пашырэннем у Жамойці пратэстанцтва. Пры ім Жамойцкая епархія стала апірышчам літоўскага патрыятычнна-рэліг. руху. Дбаў аб выкарыстанні ў рэліг. жыцці літ. мовы. Даручыў М.*Даўкшы* перакласці на літ. мову «Катэхізіс» Я.Лядэсмы (Вільня, 1595) і «Пасцілу каталіцкую» Я.Вуека (Вільня, 1599), якія выдаў уласным коштам. Апякаў гісторыка М.*Стрыйкоўскага,* якому даў пасаду каноніка жамойцкага.

Юрый (?—1619), сын Пятра Марцінавіча. Вількамірскі падсудак з 1598 і суддзя земскі з 1607.

Марцін Матушавіч (?—1621), сын Матэвуша Барталамеевіча. Староста абельскі ў 1586—1607, вількамірскі з 1589, дзяржаўца бельскі, ваявода мсціслаўскі з 1617. Вызначыўся ў *Кірхгольмскай бітве 1605*. У 1618 фундаваў у Відзінішках Віленскага пав. кляштар аўгусцінцаў.

Зыгмунт Мікалаевіч (?—1625), сын Мікалая Марцінавіча. Віленскі паборца ў 1578, падсудак з 1596, суддзя земскі з 1612.

Эзэаш (?—1629), сын Зыгмунта Мікалаевіча. Пакаёвы дваранін каралевы ў 1621—25, маршалак ваўкавыскі з 1625.

Марцыян Уладзіслававіч (?—1649), сын Уладзіслава Пятровіча. Падстолі полацкі з 1613, віленскі падсудак з 1634, суддзя земскі з 1647. У 1625 удзельнічаў у ваен. дзеяннях у Інфлянтах. Быў жанаты з Барбарай Сямёнаўнай Вайнянкай, удавой па Л.І.Мамонічу.

Арнольф Янавіч (?—пасля 1656), сын Яна (Януша). Пінскі мечнік з 1641, чашнік у 1650, войскі з 1656.

Ян Стафан (?—13.5.1802), сын Бенядзікта. Біскуп інфлянцкі з 1764, жамойцкі з 1778.



Да арт. **Гедройцы**. Я.С.Гедройц. Мастак Ф.Смуглевіч.

Рамуальд Тадэвуш (1750—1824), сын Юзафа, гл. *Гедройц* Р.Т.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 65—76; Wojtkowiak Z. Powiat Giedrojcie // Zapiski historyczne. 1978. № 2; Semkowicz W. O litewskich rodach bojarskich zbratanych ze szlachtą polską w Horodle roku 1413 // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. T. 3. S. 73—75; Думин С.В. Князья Гедройц // Дворянские роды Российской империи. Т. 2. СПб., 1995; Шумков А.А. Князья Гедройцы // Дворянский календарь. СПб., 1996. Тетрадь 1; Шаланда А. Да праблемы складання сапраўднага гербоўніка шляхты Браслаўскага павета ВКЛ другой паловы XVI—XVII ст. // Браслаўскія чытанні: Матэрыялы V-й навукова-краязнаўчай канферэнцыі. Браслаў, 2001.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гедыгольд** (у каталіцтве Юрый; ?—пасля 9.6.1435), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Сын баярына Кайлікіна (Гайлігіна), брат Манівіда (гл. ў арт. *Манівідавічы*). Маршалак надворны Вітаўта ў 1401, ваявода кіеўскі ў 1411, староста падольскі ў 1411—23, смаленскі каля 1424, ваявода віленскі ў 1426—32. Падпісаў як сведка акт *Віленска-Радамскай уніі 1401, Тарунскі мір 1411*. У 1415 ездзіў на *Канстанцкі сабор 1414—18*. У 1429 пасол Вітаўта да Ягайлы ў справе каранацыі Вітаўта каралеўскай каронай. У час *феадальнай вайны 1432—39* спачатку быў на баку



Свідрыгайлы, у 1432 трапіў у палон да Жыгімонта Кейстутавіча, з якім пагадзіўся. Атрымаў ад яго маёнтак Вішнева ў Ашмянскім пав. Сын Г. Сенька (Пётр; ?—крас. 1451) быў маршалкам гаспадарскім у 1429, намеснікам смаленскім у 1447—51, кашталянам віленскім у 1451. У 1430 ездзіў паслом у Рым за каронай для Вітаўта. Падпісаў акты *Гарадзенска-Троцкай уніі 1432—33*. Валодаў маёнткамі Вішнева (заснаваў там касцёл), Волма, Дзераўная, Камень, Налібакі, Радашковічы ў Менскім пав., Мір і Свержань у Навагародскім пав.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гедэль** (Hedel) Іаган (Ян) (?—17.6.1764), віленскі разьбяр, скульптар-лепшчык, прадстаўнік *віленскага барока*. Распрацоўваў новы для 1-й пал. 18 ст. матэрыял выканання скульптуры і дэкаратыўнай разьбы — стука. У дакументах Вільні 1746 названы як «куншту стукарскага і фальшмармару мадзістра» (магістр). У 1740—50 дэкарыраваў касцёл святых Яна Хрысціцеля і Яна Евангеліста ў Вільні, выконваў постаці на зах. франтоне і святых Янаў да бакавых алтароў, таксама анёлаў і арнаментальную лепку. У 1743—47 працаваў над 8 постацямі святых і анёлаў касцёла св. Кацярыны ў Вільні. У 1746 меў кантракт на працы ў капліцы Прадбачання Божага гэтага касцёла, дзе паводле праекта І.К.*Глаўбіца* на фасадзе зрабіў 18 гіпсавых капітэляў, у інтэр'еры — 6 калон пад мармур, 6 пілястраў, 4 постаці са стука Маці Божай, святых Яна, Пятра і Паўла па баках алтара. У 1759 і 1764 вядомы яго работы ў касцёле бернардзінак у Слоніме: 3 алтары з ракайльнай аздобай, амбон, канфесіянал (спавядальня) і 5 алтароў са скульптурай: Бязгрэшнага Зачацця, Хрыста на крыжы, св. Францішка, Маці Божай Шкаплернай, св. Юзафа. Імя Г. стала вядома гісторыкам у 1930-я г.; падрабязнае даследаванне творчасці належыць В.*Дрэме*.

*Літ.*: Г а р ш к а в о з В.Дз. Інтэр'ер слонімскага храма бернардзінак — помнік віленскага барока // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989.

***Вольга Бажэнава.***

**Гедэман** Отан Магнусавіч [16(28).4.1887, в. Васілевічы Рэчыцкага пав. Мінскай губ.—16.5.1937], беларускі гісторык, краязнавец, прыродазнавец, педагог. З сям'і меліяратара. Скончыў гімназію ў Гомелі. Выключаны з гісторыка-філалагічнага ф-та Кіеўскага ун-та за ўдзел у рэв. руху. З 1922 працаваў настаўнікам у школе ў Браславе. З 1928 у Вільні. Збіраў матэрыялы па гісторыі Браслаўшчыны, вывучаў магдэбургскае права, развіццё гандлю і рамёстваў, сац. структуру і маёмасныя адносіны насельніцтва ў бел. гарадах сярэдняга Падзвіння, лясныя промыслы і водныя шляхі на Беларусі 17—18 ст., гісторыю Белавежскай пушчы. Даследаваў гісторыю гарадоў Беларусі, падзяляў іх на 3 катэгорыі: адм.-судовыя, павятовыя або ваяводскія (Вільня, Браслаў, Віцебск, Полацк і інш.); гарады з прывілеямі на самакіраванне, развітым гандлем і абарончымі функцыямі ў мінулым; прыватнаўласніцкія гарады і мястэчкі з цэнтрамі духоўнай культуры (Глыбокае, Мядзел, Паставы і інш.). Выдаў кнігі пра Дзісну, Друю, Глыбокае, Браслаў, Браслаўскі пав., асобныя мясціны Падзвіння.

*Тв.*: Historia powiatu brasławskiego. Wilno, 1930; Dawne puszczy i wody. Wilno, 1934; Dzisna i Druja, magdeburskie miasta. Wilno, 1934; Głębokie: (Szkic dziejów). Wilno, 1935; Graf Manuzzi. Wilno, 1935; Testamenty brasławsko-dziśnieńskie XVII—XVIII w. jako źródło historyczne. Wilno, 1935; Szkoły walerjanowskie xx. pijarów łużeckich. Wilno, 1937.

***Генадзь Каханоўскі.***

**Гедэон** Святаполк-Чацвярцінскі [свецкае Рыгор; ?—6(16).4.1690], дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. З княжацкага роду *Чацвярцінскіх*, сын старасты раціборскага Захара Чацвярцінскага. З 1660 епіскап луцкі і астрожскі. Вёў барацьбу з уніятамі за права карыстацца тытулам і царк. маёнткамі, але ў 1683 пазбаўлены іх каралеўскай уладай. У 1684 пераехаў на Левабярэжную Украіну, што знаходзілася пад уладай Расіі, і асталяваўся ў Крупіцкім манастыры пад Батурынам. Царк. сабор у Кіеве ў 1685 па патрабаванні гетмана І.Самайловіча абраў Г. кіеўскім мітрапалітам. Насуперак традыцыі быў накіраваны для зацвярджэння патрыярхам у Маскву. Там пасвячоны 8(18).11.1685, пасля чаго правасл. царква Рэчы Паспалітай фармальна пачала падпарадкоўвацца не Канстанцінопальскай, а Маскоўскай патрыярхіі. Шмат увагі аддаваў уладкаванню Кіева-Магілянскай акадэміі.

*Літ.*: Архив Юго-Западной России. Ч. 1, т. 5. Киев, 1873.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гейдэнштэйн** (Heidenstein) Рэйнгольд [каля 1556 (магчыма, 1553), Каралявец (паводле інш. крыніц Суленчын каля Гданьска)—24.12.1620], нямецкі і польскі храніст, дыпламат, юрыст. З 1566 вучыўся ў Каралявецкім, з 1571 у Вітэнбергскім, потым Падуанскім ун-тах. Сакратар прускага герцага Фрыдрыха Альбрэхта, з 1582 — вял. князёў літоўскіх і каралёў польскіх Стафана Баторыя і Жыгімонта III Вазы. Карыстаўся даверам кароннага канцлера Я.Замойскага, пад уплывам якога ў 1591 перайшоў з лютэранства ў каталіцтва. Выконваў адказныя дыпламат. місіі, займаўся кадыфікацыяй законаў. Служба ў каралеўскай канцылярыі дала магчымасць Г. азнаёміцца са шматлікімі дзярж. сакрэтамі, гіст. крыніцамі, дазволіла добра арыентавацца ў справах Рэчы Паспалітай і сумежных краін. У канцы 1612 па стану здароўя пакінуў пасаду, займаўся гісторыка-літ. працай (біяграфія Замойскага, гісторыя Польшчы канца 16 ст. і інш.). Пісаў на латыні. Аўтар «Запісак пра Маскоўскую вайну» («De bello Moscovitico Commentariorum», Кракаў, 1584). У рэдагаванні, а магчыма, і ў напісанні гэтай працы прымалі ўдзел Стафан Баторый і Замойскі. Твор — храналагічнае апісанне падзей заключнага перыяду *Інфлянцкай вайны 1558—82*, напісаны на падставе дакумент. крыніц, звестак непасрэдных удзельнікаў, шэрага прысвечаных гэтай вайне прац. Аўтар падрабязна апісаў аблогу і штурм Полацка войскамі Баторыя і інш. ваен. падзеі на Беларусі ў 1579—80, паказаў рабаўніцтва, жахі і пакуты насельніцтва. Праца дае магчымасць меркаваць пра адносіны да ваен. падзей з боку розных груповак правячых колаў Рэчы Паспалітай, рабіць высновы пра дзейнасць той ці інш. асобы. Г. абараняў палітыку Стафана Баторыя і Замойскага, ставіўся да іх з яўнай сімпатыяй. Разам з тым у працы ёсць крытычныя заўвагі ў бок некат. асоб краіны (з партыі Збароўскіх). Гэта прывяло да таго, што пасля смерці Стафана Баторыя, на Варшаўскім сойме 1587, выказваліся патрабаванні знішчыць працу Г. «Запіскі» — важная крыніца для вывучэння адносін паміж Рус. дзяржавай і Рэччу Паспалітай у часы Інфлянцкай вайны і ўнутрыпаліт. становішча Беларусі ў гэты час.

*Тв.*: Рус. пер.: Записки о Московской войне (1578—1582). СПб., 1889; Польск. пер.: Pamiętniki o wojnie moskiewskiej. T. 1—6. Lwów, 1894; Бел. пер.: Пад Полацкам дажджы: Запіскі з 1579 году // Спадчына. 1995. № 6.



*Літ.*: Nehring W. O życiu i pismach Reinholda Heidensteina // Nehring W. O historykach polskich XVI wieku. Poznań, 1862. Cz. 1; Kocowski B. Heidensteinowie // Prace historyczne. Lwów, 1936.

***Валерый Касмылёў.***

**Гейкінг** (Heyking) Генрык (Карл Генрых Герман Беньямін; 22.6.1752—18.10.1809), дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. З ням. роду, аселага ў Курляндыі, барон. Вучыўся ў Мітаве, Варшаве. З 1767 пры двары саксонскага герцага Карла ў Дрэздэне. У 1771 далучыўся да *Барскай канфедэрацыі*, ад'ютант вял. гетмана ВКЛ М.К.Агінскага. Адзін з заснавальнікаў масонскай ложы «Рыцары святога Карла» з камандорыямі ў Варшаве і Вільні. У 1777—84 у рас. арміі. Пасля ў Варшаве рэзідэнт курляндскага герцага і шляхты, курляндскі прадстаўнік на сойме 1784, Чатырохгадовым сойме 1788—92. З 1792 прыхільнік *Таргавіцкай канфедэрацыі*, выступаў за далучэнне Курляндыі да Рас. імперыі. З 1796 рас. сенатар. Аўтар успамінаў, частка якіх пад назвай «З апошніх дзён Польшчы і Курляндыі» выдадзена ў Берліне ў 1897. Мемуары Г. — важная гіст. крыніца, якая асвятляе часы падзелаў Рэчы Паспалітай. У іх ёсць звесткі пра падзеі на Беларусі, пра Гародню, слонімскі тэатр Агінскага і інш.

*Тв.*: Aus Polens und Kurlands letzten Tagen: Memoiren des Barons K.H.H. (1752—1796). Berlin, 1897; Рус. пер. — Воспоминания сенатора барона Карла Гейкинга // Русская старина. 1897. № 8—12.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гельман** (Hellmann) Манфрэд (24.6.1912, Рыга—12.6.1992), нямецкі гісторык. У 1930—33 вывучаў гісторыю, ням. філалогію і філасофію ў Латвійскім ун-це і ў Ін-це імя Гердэра ў Рызе, у 1933—36 вучыўся ў Кёнігсбергскім ун-це, дзе ў 1938 абараніў доктарскую дысертацыю «Прускае ўладанне Таўраге ў Літве» («Die preußische Herrschaft Tauroggen in Litauen, 1690—1793», Кёнігсберг, 1940). У 1937—41 навук. супрацоўнік Берлінскага ун-та. У 1-й пал. 1940-х г. працягваў даследчыцкую дзейнасць у Рызе. У 1945—52 асістэнт Славістычнага семінара ў Лейпцыгу. У 1952 пераехаў у Зах. Германію і ў Фрайбургу атрымаў габілітацыю за працу «Латгальская зямля ў сярэдневякоўі» (апубл. 1954). З 1956 дацэнт, з 1964 праф. Вестфальскага ун-та імя Вільгельма (Мюнстэр), дзе арганізаваў спец. семінар па гісторыі Цэнтр. і Усх. Еўропы. У гэты перыяд быў звязаны з т.зв. «Канстанцкім рабочым гуртком», які даследаваў гісторыю Нямецкага ордэна. У 1976 абраны членам Баварскай АН, пасяліўся ў Мюнхене. З 1978 на пенсіі.

Даследаваў гісторыю Цэнтр. і Усх. Еўропы пераважна ў перыяд позняга сярэдневякоўя і ранняга новага часу, гісторыю ВКЛ, Лівоніі, Нямецкага ордэна, Расіі. У гістарыяграфіі праблемы ўтварэння ВКЛ важнае месца займае дыскусія 1950—60-х г. паміж Г. і гісторыкам У.*Пашутам*. У арт. «Да пачаткаў Літоўскай дзяржавы» (1956—57) Г. аспрэчыў гал. папрок Пашуты Г.*Лаўмянскаму* ў тым, што той лічыў значнымі знешнія фактары ў працэсе стварэння «цэнтралізаванай старажытнай Літоўскай дзяржавы» і не браў пад увагу ўнутр. фактары гэтага працэсу. Паводле меркаванняў Г., перад Пашутам стаяла задача давесці, што балцкая супольнасць Літвы прайшла тыя ж фазы развіцця, якія сав. гістарыяграфія лічыла абавязковымі для інш. еўрап. народаў, і найперш працэс класавага падзелу. Услед за літоўскім эміграцыйным гісторыкам З.*Івінскісам* Г. пісаў, што трэба браць пад увагу знешнепаліт. становішча, у першую чаргу ўзнікненне Прускай ордэнскай дзяржавы на заходніх і Лівонскай калоніі на паўн. межах краю. У выніку «мноства дробных літоўскіх княстваў» маглі трапіць пад вярхоўную ўладу немцаў, таму балцкія нобілі вымушаны былі шукаць магчымасці супрацьстаяння немцам як самастойна, так і пры дапамозе суседніх рускіх князёў. Адказам Пашуты быў арт. «Супраць некаторых буржуазных канцэпцый утварэння Літоўскай дзяржавы» (1958), у якім ён абвінаваціў Г. ў агнастыцызме. Факталагічна кампактна і найб. выразна канцэпцыю ўзнікнення ВКЛ Г. выклаў у кн. «Асноўныя рысы гісторыі Літвы і літоўскага народа» («Grundzüge der Geschichte Litauens und des litauischen Volkes», Дармштат, 1966; 3 выд. 1986), у якой адзначыў тэрміналагічныя праблемы і неадназначнасць разумення палітоніма і этноніма: «Гісторыя Літвы і гісторыя літоўскага народа на вялікім адрэзку часу не супадаюць». «Ядром дзяржаўнай і этнічнай вобласці» Г. традыцыйна называў Усх. Літву з цэнтрам у Вільні, верагодным месцам каранацыі Міндоўга — Навагародак. Адзначыў, што ўжо ў 1307 Віцень аднавіў «літоўскую ўсходнюю палітыку» адносна Полацка і інш. дзвінскіх княстваў, ліквідаваў там апошнія ўсх.-слав. княствы і аб'яднаў іх са сваёй родавай зямлёй, а на Пд Чорная Русь з Навагародкам яшчэ з часоў Міндоўга была злучана з Літвою; у час валадарання Гедзіміна гэты край узняўся да статусу вял. дзяржавы на ўскраіне «ўсходу Цэнтральнай Еўропы». Г. быў прыхільнікам крыніцазнаўчага пурызму, любыя гістарыяграфічныя высновы рабіў толькі на падставе прамых крыніц.

*Тв.*: Zur Geschichte des Deutschtums in Litauen // Auslandsdeutsche Volksforschung. 1937. Heft 4; Der Deutsche Orden und die Königskrönung des Mindaugas // Zeitschrift für Ostforschung. 1954. Heft 3; Zu den Anfängen des litauischen Reiches // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1956/1957. Bd. 4; Die geschichtliche Bedeutung des Großfürstentums Litauen // Saeculum. Freiburg; München, 1958. Bd. 9; Die polnisch-litauische Union von 1385/86 // Jahrbücher für Geschichte Osteuropas. 1986. Bd. 34; Das Grossfürstentum Litauen bis 1569. Stuttgart, 1989; Die Erzbischöfe von Riga und Litauen vom 13. bis zum 15. Jahrhundert // Baltikum: Studia z dziejów polityki, gospodarki i kultury XII—XVIII wieku. Toruń, 1992.

*Літ.*: Дорошенко В.В. Феодализм в Латгалии и Восточной Видземе в освещении западногерманского историка: (по поводу книги М.Хельмана «Латышская земля в средние века») // Изв. АН Латв.ССР. 1956. № 9; Пашуто В.Т. Реваншисты — псевдоисторики России. М., 1971; Östliches Europa — Spiegel der Geschichte: Festschrift für Manfred Hellmann zum 65. Geburtstag. Wiesbaden, 1977; Fünfunddreißig Jahre Forschung über Ostmitteleuropa. Veröffentlichungen der Mitglieder des J.G.Herder-Forschungsrates 1950—1984. Marburg; Lahn, 1985; Boockmann H. Zum Gedenken an Manfred Hellmann // Zeitschrift für Ostforschung. 1993. Heft 4.; Краўцэвіч А.К. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 1998.

***Алег Дзярновіч.***

**генеалогія** (ад грэч. genealogia радавод), спецыяльная гістарычная дысцыпліна, якая вывучае індывідуальна-сямейна-родавыя сувязі, заснаваныя на агульным паходжанні, роднасці. У ВКЛ Г. мела перш за ўсё практычнае значэнне, выкарыстоўвалася пры вызначэнні ступеняў роднасці і сваяцтва пры атрыманні маёмасці ў спадчыну і інш. Пачынальнікам навуковай Г. ў Рэчы Паспалітай быў Б.*Папроцкі*, які ў кнізе «Гербы польскага рыцарства» (1584) даў звесткі прыкладна пра 150 бел., літ. і ўкр. шляхецкіх родаў. Як усе раннія генеалагічныя публікацыі, яна носіць панегі-



рычны характар, уключае шмат міфічных звестак, легенд, больш дакладная інфармацыя тычыцца часоў жыцця аўтара. Шырокі храналагічны перыяд ахоплівае 3-томны «Радавод палякаў» Ш.Акольскага (1641—45). Найлепшай працай 17 ст. па Г. шляхты ВКЛ з'яўляецца гербоўнік гісторыка А.*Каяловіча* (2-я пал. 17 ст.). Існуюць 3 рэдакцыі яго гербоўніка: 1-я і 2-я — апісанні Г. шляхты з гербамі, 3-я — падрабязныя да іх матэрыялы. Скарочаную рэдакцыю гэтай працы («Кампендыум рыцарства Вялікага княства Літоўскага») выдаў у 1897 польскі гісторык Ф.*Пекасінскі*. Сярод гісторыкаў ВКЛ Каяловіч упершыню шырока выкарыстаў дакументальныя матэрыялы і пісьмовыя апытанні шляхты, але не закранаў тэмы, недастаткова падмацаваныя крыніцамі. Ён даў звесткі пра заснавальнікаў родаў, найб. значных іх прадстаўнікоў, блізкіх родзічаў, дзярж. пасады, удзел у войнах, соймах, пасольствах і інш. У 4-томным гербоўніку «Карона польская» (1728—43) К.*Нясецкага* звесткі пра бел., польскія, літ. і ўкр. роды сабраны з гіст. л-ры, хронік, летапісаў (Я.Длугаш, М.Кромер, М.Бельскі, Каяловіч, Ш.Старавольскі і інш.), генеалагічныя звесткі за 17—1-ю пал. 18 ст. больш верагодныя. У зборы матэрыялаў Нясецкаму дапамагалі езуіты Польшчы і ВКЛ. Лейпцыгскі выдавец гербоўніка Я.Н.Бабровіч, які выдаў яго ў 10 тамах у 1839—45, дапоўніў яго шматлікімі дадаткамі. У 19—20 ст. Г. родаў ВКЛ даследавалі А.*Банецкі*, Ю.*Вольф*, У.*Дважачак*, С.*Дзядулевіч*, Т.*Жыхлінскі*, Ш.*Канарскі*, А.*Касінскі*, К.*Стадніцкі*, У.*Сямковіч*, С.*Урускі* і інш.

***Георгій Галенчанка.***

**генерал** (ад лац. generalis агульны, галоўны), 1) воінскі ранг вышэйшага каманднага саставу. У Рэчы Паспалітай тэрмін ужываўся з 17 ст., спачатку ў войсках чужаземнага набору і для пазначэння «старшага над гарматай» (гл. *Генерал артылерыі*). У 18 ст. існавалі 2 ступені Г.: Г.-маёр і больш высокая Г.-лейтэнант. Падзяляліся на фарштэляваных (знаходзіліся на сапраўднай службе) і нефарштэляваных (тытулярных). 2) Службовая асоба земскіх судоў у ВКЛ, галоўны *возны*. Выбіраўся ваяводамі, старастамі і павятовай шляхтай з асоб, якія мелі нерухомую маёмасць у дадзеным ваяводстве або павеце. Зацвярджаўся на пасаду вял. князем. На першай сесіі земскага суда прымаў адпаведную прысягу. Г. мог выконваць свае абавязкі і за межамі свайго павета або ваяводства па ўсёй тэр. ВКЛ.

**генерал артылерыі**, дыгнітарскі урад (пасада) у ВКЛ, кіраўнік артылерыі. Загадваў арсеналамі, збраёўнямі, парахоўнямі і людвісарнямі, займаўся забеспячэннем войска і арсеналаў порахам і амуніцыяй, навучаннем артылерыстаў. Вядома з 17 ст., калі кароль польскі і вял. князь літоўскі Уладзіслаў IV надаў артылерыі вайсковую арганізацыю (т.зв. «Артыкулы», абвешчаныя ў 1634 пад Смаленскам). Г.а. прызначаўся пажыццёва і не меў права займаць інш. вайсковых пасад. Першым кіраўніком артылерыі ВКЛ у 1634 стаў Мікалай Абрамовіч. З 1685 Г.а. атрымліваў 3 тыс. злотых на прыватныя патрэбы. Распараджаўся буйнымі грашовымі сродкамі, прымаў спец. прысягу не расходаваць гэтыя грошы на інш. мэты, і падпарадкоўваўся вял. гетману, з 1775 Вайсковаму дэпартаменту Пастаяннай Рады.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**генерал-ад'ютант**, ганаровая пасада ў войску ВКЛ у 18 ст., ад'ютант вялікага або польнага *гетмана*. Не была вайсковым рангам. Г.-а. прызначаўся патэнтам вял. або польнага гетмана. Пасада магла надавацца асобам у рангах маёра, падпалкоўніка і палкоўніка.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**генерал-інспектар**, урад (пасада) у ВКЛ. Створана ў 1760 для правядзення люстрацыі войска. У 1776 Г.-і. уключаны ў *дыгнітарыі* ВКЛ. Чатырохгадовы сойм 1788—92 у 1789 скасаваў урад Г.-і., пакінуўшы гэты тытул пажыццёва за апошнім Г.-і. Атрымліваў плату ад 4600 да 12 000 злотых штогод.

***Валерый Пазднякоў.***

**генерал-маёр зямянскі**, вайсковая пасада у час *паўстання 1794*, вайсковы кіраўнік у кожным павеце ці ваяводстве (дзе не было падзелу на паветы). Не была вайсковым рангам. Абавязкам Г.-м.з. быў набор рэкрутаў (пешага з 5 дымоў, коннага з 50 дымоў), іх абмундзіраванне, узбраенне і абучэнне; арганізацыя міліцыі (апалчэння) грамадзян, паспалітага рушэння шляхты і камандаванне створанымі атрадамі (т.ч. выконвалі абавязкі ніжэйшых афіцэраў).

**Генрык** Валезы (Генрых Валуа, франц. Henri III Valois; 19.9.1551, Фантэбло, Францыя—2.8.1589), герцаг анжуйскі, кароль польскі і вял. князь літоўскі [1574], кароль Францыі з 1575, апошні прадстаўнік дынастыі Валуа (Ангулемская галіна) на троне Францыі. Трэці сын Генрыха II Валуа і Кацярыны Медычы. У ліст. 1567 прызначаны ген. намеснікам каралеўства. Баючыся паліт. ўзмацнення Г. ў Францыі, яго брат Карл IX падтрымаў прапанову ажаніць Г. з Ганнай Ягелонкай, каб пасля смерці Жыгімонта II Аўгуста ён стаў спадкаемцам кароны Рэчы Паспалітай і такім чынам пазбавіцца ад Г. ў Францыі і адначасова не дапусціць на польскі трон Габсбургаў. Звесткі пра падзеі Варфаламееўскай ночы 24.8.1572 (разня пратэстантаў у Парыжы), у падрыхтоўцы якіх удзельнічаў Г., выклікалі выступленні супраць яго кандыдатуры



**Генрык** Валезы.

пратэстантаў Рэчы Паспалітай. Аднак пасланец ад Францыі біскуп дэ Манлюк здолеў атрымаць падтрымку большасці сенатараў і шляхты, што сабраліся для выбараў новага караля. Ён даў пісьмовае пацвярджэнне ўмоў, на якіх Г. будзе абраны каралём, т.зв. *Генрыкавы артыкулы*. Г. абавязваўся таксама пабрацца шлюбам з Ганнай Ягелонкай адразу па прыездзе ў Польшчу. Падпісана таксама дамоўленасць пра ваен. і фінансавыя адносіны Рэчы Паспалітай і Францыі (*Пакта канвента*), умовы пакарання франц. урадам удзельнікаў Варфаламееўскай разні і ўстанаўленне міру з гугенотамі («Postulata polonica»). На элекцыйным сойме ў Варшаве 11.5.1573

гнезненскі арцыбіскуп Уханскі абвясціў выбранне Г. каралём польскім і вял. князем літоўскім. 16.5.1573 пасля атрымання канчатковай згоды часткі паслоў-пратэстантаў надворныя маршалкі, каронны і літоўскі, афіцыйна абвясцілі абранне на трон Г. 18.2.1574 Г. прыехаў у Кракаў, 24.2.1574 адбыліся каранацыя і прыняцце прысягі ў адпаведнасці з Генрыкавымі артыкуламі. Большасць паслоў сойма, бачачы няздольнасць Г. выканаць фінансавыя і ваен. абавязкі, патрабавала паўтарэння прысягі па кожным пункце асобна. У многіх ваяводствах шырыўся рух за пазбаўленне Г. прастола. Не ўдалося, як гэта прадугледжвалі Генрыкавы артыкулы, стварыць пры каралю дарадчы орган з 16 сенатараў і паслоў. Незадавальненне выклікала і нежаданне Г. ажаніцца з Ганнай Ягелонкай. 30.5.1574 у Францыі памёр Карл IX. Сенат Рэчы Паспалітай пастанавіў, што рашэнне пра ад'езд караля можа прыняць толькі вальны сойм. У ноч на 19.6.1574 Г. тайна выехаў з Кракава. Падкаморы каронны Я.Тэнчынскі дагнаў яго, але дамогся толькі абяцання вярнуцца ў Рэч Паспалітую, як толькі ўладкуе справы ў Францыі. У Францыі Г. абралі каралём пад імем Генрыха III, у Рэч Паспалітую ён не вярнуўся. Быў забіты дамініканскім манахам у час аблогі Парыжа войскамі гугенотаў. Да канца жыцця Г. карыстаўся тытулам караля польскага і вял. князя літоўскага.

*Літ.*: Трачевский А. Польское безкоролевье по прекращении династии Ягелонов: Ист. исслед. М., 1869; Лаппо И.И. Великое княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до смерти Стефана Батория (1569—1586). СПб., 1901. Т. 1. С. 103—114; Serwański M. Henryk III Walezy w Polsce: Stosunki polsko-francuskie w latach 1566—1576. Kraków, 1976; Grzybowski S. Henryk Walezy. 2 wyd. Wrocław etc., 1985.

***Святлана Канаплёва.***

**Генрыкавы артыкулы** (лац. Articuli Henriciani), акт, які вызначыў асновы дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай і паўнамоцтвы караля польскага і вялікага князя літоўскага. Прыняты на элекцыйным сойме 1573 пры абранні на трон Рэчы Паспалітай *Генрыка* Валезы. Складаўся з 18 пунктаў. Паводле дакумента, кароль не меў права прызначаць сабе пераемніка, меіць зносіны з замежнымі дзяржавамі, абвяшчаць вайну, склікаць паспалітае рушэнне, аднаасобна выдаваць законы, вяршыць суд і ўстанаўліваць падаткі. Пацвярджалася права ўласнасці феадалаў, іх права выбіраць манарха. Кароль абавязваўся кожныя 2 гады склікаць вальны сойм, падтрымліваць рэлігійны мір у краіне. Ён павінен быў знаходзіцца пад апекай 16 сенатараў-рэзідэнтаў. Калі ён не выконваў узятых на сябе абавязкаў, жыхары Рэчы Паспалітай абвяшчаліся вольнымі ад падпарадкавання і вернасці каралю. Г.а. падпісвалі пры абранні ўсе наступныя каралі польскія і вял. князі літоўскія.

***Святлана Канаплёва.***

**Георгій** Каніскі [свецкае Рыгор; 20.11(1.12).1717, г. Нежын, Украіна—2(13).2.1795], праваслаўны царкоўны і грамадскі дзеяч, пісьменнік. Нарадзіўся ва ўкр. шляхецкай сям'і. Скончыў Кіева-



**Георгій** Каніскі.
Партрэт канца 18 ст.

Магілянскую акадэмію (1743). Прыняў у Кіева-Пячэрскай лаўры манаскі пострыг. У 1745—55 выкладчык, прафесар, рэктар Кіева-Магілянскай акадэміі. Вучань і паслядоўнік прафесараў С.Кулябкі, Ф.Пракаповіча, С.Тадароўскага. У 1755 пасвячоны ў сан епіскапа магілёўскага (беларускага). Змагаўся за захаванне і адраджэнне праваслаўя на Беларусі. У 1757 адкрыў у Магілёве пры архірэйскім доме друкарню і перавыдаў скарочаны тэкст «Катэхізіса» Ф.Пракаповіча ў сваім перакладзе на «рускі дыялект» (славяна-бел.). У тым жа годзе стварыў пры Спаскім манастыры школьныя класы і заснаваў духоўную семінарыю. Сабраў шмат дакументаў па гісторыі правасл. царквы (каралеўскія граматы і інш.). У 1765 на аўдыенцыі ў караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага выступіў у абарону правоў праваслаўных і інш. *дысідэнтаў* з прамовай, якая была перакладзена на еўрап. мовы як узор абароны верацярпімасці. Кароль абяцаў вярнуць праваслаўным іх правы, храмы, манастыры, але не выканаў абяцанняў. Тройчы (1759, 1760, 1768) на жыццё Г. рыхтаваліся замахі. Не атрымаўшы разумення з боку ўлад Рэчы Паспалітай, звяртаўся з просьбамі аб дапамозе праваслаўным да рас. імператрыц Лізаветы і Кацярыны II. Апошняй ён прысвяціў шэраг сваіх прамоў. Ратуючыся ад замаху, у 1768 з'ехаў у Расію (Смаленск), дзе заставаўся магілёўскім епіскапам у выгнанні. Вярнуўся пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай у 1772. З 1793 архіепіскап, абраны ў Сінод. Намаганнямі Г. арганізавана праваслаўная Мінская епархія. Шмат зрабіў для добраахвотнага вяртання вернікаў у праваслаўе. Пакінуў шэраг твораў: «Мемарыял аб крыўдах праваслаўным», «Правы і вольнасці жыхароў грэчаскага веравызнання», «Трактат вечнай дружбы», «Збор павучальных слоў», «Запіскі аб тым, што ў Расіі да канца 16 ст. не было ніякай уніі з рымскай царквой», духоўны дзённік «Думкі», адказ на «Пісьмо Вальтэра да настаўнікаў царквы і багасловаў», драму «Уваскрэсенне мёртвых» і інш. Сабраў т.зв. «Архіў Каніскага», у аснову якога былі пакладзены дакументы з архіва Калегіі замежных спраў Расіі. У 1993 кананізаваны.

*Тв.*: Собр. соч. Ч. 1—2. СПб., 1835; Записки преосвященного Георгия Конисского о том, что в России до конца XVI в. не было никакой унии с римскою церковью. М., 1847; Слова и речи Георгия Конисского, архиепископа Могилевского. Могилев-на-Днепре, 1892; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962. С. 336—365; Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 274—290.

*Літ.*: Сборник документов, уясняющих отношения латино-польской пропаганды к русской вере и народности. Вильна, 1865; Коялович М.О. История воссоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873; Колосов Н.А. Георгий Конисский, архиепископ белорусский. М., 1895; Кашуба М.В. Георгий Конисский. М., 1979; Костомаров Н.И. Исторические произведения; Автобиография. 2 изд. Киев, 1990; Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992.

***Валянціна Дышыневіч.***



**Геранёнскі замак**, помнік палацава-замкавай архітэктуры канца 15—18 ст. каля мяст. *Геранёны*. Пабудаваны, відаць, на мяжы 15—16 ст., калі Геранёнамі валодаў канцлер ВКЛ і віленскі ваявода А.*Гаштольд*. Замак размяшчаўся на штучнай выспе, насыпанай з зямлі, выкінутай з рова, які абкружаў замчышча. Перад ровам быў земляны вал вышынёй 9—10 м, шырынёй каля 15 м і даўжынёй па перыметры больш за 700 м. Вал у плане нагадваў выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі. Абарона Г.з. не была разлічана на прыродныя перашкоды і не мела штучнага абваднення. Толькі знешні абарончы роў на асобных участках мог напаўняцца вадой у час веснавога таяння снегу або ўвосень, калі ішлі дажджы. Характар першапачатковых навальных канструкцый Г.з. не высветлены, але, відаць, гэта былі звычайныя драўляныя сцены. Замак меў выгляд квадрата (27 × 27 м), на кожным вугле якога стаялі мураваныя цыліндрычныя вежы (дыяметр 8 м). Даследаванне (1972, М.А.Ткачоў) уцалелых рэштkaў сцен і вежаў паказала, што яны былі складзены ў традыцыйнай для Беларусі тэхніцы паласатай муроўкі з шырокім выкарыстаннем каменю і цэглы, якая ішла ў асн. на абліцоўку вежаў. Вапнавы раствор мае нязначны дамешак тоўчанай гліны і вызначаецца трываласцю. Сцены замка таўшчынёй 1,4 м на асобных участках дасягаюць цяпер вышыні 4 м. Першапачаткова яны былі не намнога вышэйшыя за вонкавы абарончы вал, які прызначаўся, магчыма, у першую чаргу для прыкрыцця Г.з. ад прамога абстрэлу. Завяршэнне замкавых сцен было, відаць, цаглянае. Падмуркі вышынёй 1 м зроблены з вял. камянёў (70 × 50 см), пакладзены на вапне. Прамежкі паміж імі старанна заштукаваны кавалкамі цэглы і раствору. 2-метровай таўшчыні сцены вежаў складзены з каменю (муроўка лусковая) і звонку абліцаваны цэглай (муроўка гатычная). Таўшчыня вапнавага раствору 2—3,5 см. Цэгла — буйнапамерная, баразнаватая, памерамі 29,5 × 13 (14) × 6 (8,5) см. Глыбіня залягання падмурка вежаў і сцен каля 1 м. Падмуркі перавязаны, а лініі каменнай і цаглянай муроўкі супадаюць. Аднолькавыя тэхніка муроўкі і памеры цэглы сведчаць пра адначасовасць будавання сцен і вежаў. Паўн.-зах. вежа мела скляпеністае перакрыцце, якое раздзяляла 2 ніжнія паверхі



**Геранёнскі замак**. Рэканструкцыя паводле матэрыялаў М.Ткачова. Мастак Я.Кулік.

(захаваўся аконны праём ніжняга паверха вышынёй 1 м і шырынёй 0,6 м з гатычнай аркай). Да паўд. сцяны замка ў канцы 16 ст. прыбудаваны палац (у 1565 палац у Г.з. быў яшчэ драўляны). Інвентар замка за 1765 паказвае палац як 2-павярховы будынак на 12 акон, у якім на 1-м паверсе размяшчаліся розныя службы, на 2-м — парадныя пакоі. Дах вянчалі па вуглах бляшаныя зоркі, а па цэнтры — флюгер у выглядзе бляшанага бусла. Аднак сцены замка ўжо былі моцна пашкоджаны. Пры раскопках знойдзена плоская і карытападобная чарапіца, якой накрывалі дахі вежаў, а таксама дахі над баявым ходам сцен і палац.

Г.з. узводзіўся ў тыя часы, калі значна вырасла роля артылерыі. У сувязі з гэтым асн. цяжар абароны сталі пераносіць на вонкавыя ўмацаванні — равы і валы. Валы рабілі такія высокія, каб яны надзейна закрывалі гал. частку замкавага будынка, і на значнай адлегласці ад яго. У Г.з., напр., валы аднесены на 80 м. Цэнтр абароны тут акцэнтаваны на знешнім вале (цяпер дасягае вышыні 10 м). З унутранага боку яго зроблена мураваная сцяна таўшчынёй 1,25 м і вышынёй 4,5 м, якая выконвала ролю падпорнай сценкі і надзейна прадухіляла апаўзанне вала ўнутр замкавага двара. Пад яе заслонай у час аблогі маглі перамяшчацца воіны гарнізона, пра што сведчыць брукаваная дарожка каля самага нізу сцяны. Пасля адной з падсыпак вала будаўнікі вымушаны былі падмацаваць сценку невял. контрфорсамі — «бычкамі», узведзенымі амаль праз кожныя 3—3,5 м. Падпорная сцяна і «бычкі» выкананы ў тэхніцы паласатай муроўкі з выкарыстаннем вялізных (каля 1 м) абчасаных камянёў і цэглы, пакладзеных на вапне. Цэгла, як і на замку, баразнаватая. Адрэзкі падпорнай сценкі зыходзіліся ў вуглах вала і пераходзілі ў 7-кантовыя вежы-рандэлі (таўшчыня сцен 1,75 м), якія з'яўляюцца важнымі агнявымі пунктамі. Можна меркаваць, што яны былі 2-павярховыя, з бэлечным перакрыццем, ніжні паверх (выш. каля 4,5 м) поўнасцю знаходзіўся ў тоўшчы вала. Тут, напэўна, хавалі ваен. прыпасы і рыштунак. 2-і паверх пачынаўся ад паверхні вала і нагадваў 7-кантовы мураваны бастыён з перыметрам сцен каля 25 м. Гэта дазваляла размясціць тут некалькі гармат або некалькі дзесяткаў салдат. На 2-і паверх вяла мураваная лесвіца, якая пачыналася каля самага нізу падпорнай сцяны, у стыку яе з рандэлем. Значную агнявую сілу можна было сканцэнтраваць і на самім земляным вале. На асобных участках, асабліва з У, дзе быў уезд у замак, шырыня вяршыні вала дасягае цяпер 6—7 м. На такой пляцоўцы можна было размясціць ці традыцыйныя драўляныя сцены вянковай або парканнай канструкцыі ці характэрныя для 16—17 ст. земляныя брустверы. Абарончы роў тут дасягае глыбіні 4 м і шырыні 15 м. Уязная замкавая брама размяшчалася ў ніжнім паверсе паўд.-зах. рандэля, сцены якога мелі таўшчыню каля 2,2 м. Да брамы траплялі па перакінутым цераз роў лёгкім драўляным мосце. Частка моста перад ёй, магчыма, падымалася на ланцугах. Уезд у замак трымаўся пад абстрэлам з верхняй часткі брамы і з прылеглых да яе гародняў. Справа ад брамы існаваў бастыёнападобны выступ, які фланкіраваў агнём мост і бліжэйшыя доступы да брамы. Такі элемент абароны з'яўляецца адным з першых вядомых на Беларусі і датуецца пач. 16 ст. Гэта як бы праабраз



**Геранёнскі Мікалаеўскі касцёл.**

тых бастыёнаў і бастыённай сістэмы ўмацаванняў, якія шырока распаўсюдзіліся на Беларусі ў 2-й пал. 16—17 ст. Дадатковай перашкодай на шляху ў замак з'яўляўся і *Геранёнскі Мікалаеўскі касцёл* (пабудаваны ў 1529). Абнесены мураванай сцяной, ён прымыкаў непасрэдна да абарончага рова перад брамай.

З ваен. пункту гледжання Г.з. у пач. 16 ст. быў магутным збудаваннем. Ён увабраў у сябе амаль усе вядомыя тады элементы фартыфікацыі, якія дазвалялі на працягу доўгага часу процістаяць тагачаснай тактыцы і тэхніцы аблогі. Да 1542 Г.з. валодалі Гаштольды, потым — вял. князі літоўскія і каралі польскія Жыгімонт I Стары і Жыгімонт II Аўгуст, да 1588 — розныя асобы, пазней Сапегі, з 1643 — падскарбі ВКЛ М.Кішка. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* замак разбурыла рас. войска, але, відаць, хутка ён быў адноўлены. З 1670 замак і в. Геранёны на дзярж. утрыманні. У 1708 у Г.з. з атрадам шведскага войска размяшчаўся польскі кароль Станіслаў Ляшчынскі. Пасля *Паўночнай вайны 1700—21* замак прыйшоў у заняпад. У пач. 19 ст. ў Г.з. ўжо не жылі, у сярэдзіне стагоддзя значную частку руін разабралі на ўзвядзенне ў в. Ліпнішкі розных гасп. будынкаў. Н.Орда замаляваў у сярэдзіне 19 ст. толькі руіны Г.з. вышынёй да 1-га паверха.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978.

***Міхась Ткачоў.***

**Геранёнскі Мікалаеўскі касцёл**, помнік архітэктуры позняга барока з элементамі готыкі. Пабудаваны ў 1529 як капліца ў мястэчку Геранёны (цяпер вёска ў Іўеўскім р-не Гродзенскай вобл.) па заказе віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштольда. Пасля пажару 1779 адрамантаваны на сродкі Яна Геранíма Пробача. У 1859 да прэсбітэрыя прыбудавалі сакрыстыю і капліцу. У 1883 да гал. фасада прымкнуў прытвор. У 1928—29 праведзена рэстаўрацыя касцёла. Складаецца з прамавугольнага ў плане невял. асноўнага аб'ёму, алтарнай апсіды і больш нізкіх сіметрычных сакрыстый і тамбура. Усе аб'ёмы маюць асобныя дахі. Тарцы дахаў на гал. фасадзе і над сакрыстыямі закрыты высокімі атынкаванымі франтонамі. Фасады сціпла дэкарыраваны пілястрамі і прафіляванымі карнізамі. Гал. фасад умацаваны контрфорсамі. Вокны з лучковымі завяршэннямі. Інтэр'ер перакрыты драўлянай корабавай столлю. Мураваныя алтары (цэнтральны двух'ярусны і 2 бакавыя) выкананы ў стылі класіцызму. Дэкор аргана мае рысы стылю ракако. У выніку шматлікіх перабудоў архітэктура касцёла набыла своеасаблівы рознастылявы характар.

*Літ.*: Кушнярэвіч А. М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993. С. 94—95.

***Тамара Габрусь, Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Геранёны** (цяпер вёска ў Іўеўскім р-не Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв. У пісьмовых крыніцах 15—16 ст. вядомы як Г. Мураваныя або Гаштольдавы ў адрозненне ад Г. Манівідавых (цяпер в. Суботнікі) і Г. Старых (цяпер в. Зыгмунцішкі). У 1433 вял. князь Жыгімонт Кейстутавіч падараваў двор Г. Яну Гаштольду. Каля 1458 тут пабудаваны касцёл. На мяжы 15—16 ст. ваявода



Галоўны алтар **Геранёнскага Мікалаеўскага касцёла.**



Герб **Гераненаў**.

віленскі і канцлер ВКЛ Альбрэхт Гаштольд пабудаваў *Гераненскі замак*, а ў 1529 — *Гераненскі Мікалаеўскі касцёл*. Пасля смерці Станіслава Гаштольда Г. — уласнасць вял. князёў ВКЛ. У 1575, у час бескаралеўя, тут адбылося некалькі з'ездаў шляхты. У 17—18 ст. цэнтр старакства, у 1625 заснаваны шпіталь. У 1670 гетман ВКЛ Міхал Пац запісаў Г. на ўтрыманне артылерыі ВКЛ і віленскага арсенала. У 18 ст. старастамі гераненскімі былі Мнішкі, Салагубы, Браніцкія. У 1-й пал. 18 ст. ў Г. некаторы час знаходзілася рэзідэнцыя віленскіх піяраў, пры якой у 1730—38 дзейнічала школа. 25.5.1792 атрымалі магдэбургскае права і герб: у зялёным полі пранізанае мячом сэрца. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Іўеўскага р-на. Мн., 2002.

***Валерый Шаблюк.***

**Герасім** [?, Масква—28 (паводле інш. даных 1).7.1435], дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Сын Ціта. У 1415, магчыма, епіскап уладзіміра-валынскі. З 1417 епіскап смаленскі. У 1432—35 мітрапаліт праваслаўнай царквы ВКЛ. Пастаўлены ў мітрапаліты па жаданні вялікага князя літоўскага Свідрыгайлы ў Канстанцінопалі ў 1432 (вярнуўся ў 1433). Паводле сведчання 3-га Наўгародскага летапісу, меў тытул «мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Расіі». Аднак гісторык царквы 19 ст. Я.Е.Галубінскі лічыў, што Герасім меў толькі тытул «мітрапаліт літоўскі», бо ў Маскве неўзабаве пасля смерці мітрапаліта Фоція (8.7.1431) мітрапалітам з тытулам «кіеўскі і ўсяе Русі» быў абраны разанскі епіскап Іона і малаверагодна, каб патрыярх канстанцінопальскі пагадзіўся зацвердзіць іншага мітрапаліта з тым жа самым тытулам. 26.5.1434 мітрапаліт Г. пасвяціў у Ноўгарадзе ў архіепіскапа наўгародскага Яўфімія Вяжыцкага, абранага на кафедру яшчэ ў 1428 ці 1429. Мяркуючы па летапісах, кананічная ўлада Герасіма пашыралася акрамя ВКЛ на Наўгародскую і Пскоўскую землі. Г. працягваў жыць у Смаленску. У час *феадальнай вайны 1432—39* у ВКЛ паміж князямі Свідрыгайлам і Жыгімонтам Г. падтрымаў першага. Папа рымскі Яўген IV разлічваў з дапамогай Г. заключыць унію з праваслаўнай царквой ВКЛ. Дакладна невядома стаўленне самога Г. да гэтых планаў, але захавалася грамата Яўгена IV да Г., у якой папа ўсхваляе мітрапаліта за яго руплівасць да яднання з Рымам для дасягнення «свяцейшай уніі». У 1435 Свідрыгайла абвінаваціў Г. ў тайных зносінах з Жыгімонтам і пасля 4 месяцаў зняволення ў «жалезах» спаліў яго ў Віцебску. Расправа над Г. падарвала аўтарытэт Свідрыгайлы ў войску і садзейнічала паражэнню апошняга.

*Літ.*: Коцебу А. Свитригайло, великий князь литовский. СПб., 1835: Пер. с нем. С. 206—207, 38—41 (2-го счета); Полное собрание русских летописей. СПб., 1848. Т. 4. С. 209; М., 1980. Т. 35. С. 34—35; Голубинский Е.Е. История русской церкви. М., 1900. Т. 2, ч. 1. С. 416—418; Макарий. История русской церкви. М., 1996. Кн. 4, ч. 1. С. 16, 549—550.

***Юрый Бажэнаў.***

**Герберштэйн** (Herberstein) Сігізмунд (23.8.1486, замак Віпах, Крайна, Аўстрыя, цяпер Славенія—28.3.1566), нямецкі барон, дыпламат і падарожнік. Са ступенню бакалаўра скончыў Венскі ун-т (1502). З 1506 на ваеннай, з 1514 на дыпламат. службе. Валодаў ням., лац., славенскай мовамі. Узначальваў пасольства імператара Максіміляна I і эрцгерцага Фердынанда ў 1517 і 1526 у Маскве, неаднаразова накіроўваўся з даручэннямі ў Венгрыю, Польшчу, ВКЛ. Дыпламат. дзейнасць Г. вызначалася імкненнем Габсбургаў зняць канкурэнцыю польскіх каралёў на венгерскі пасад (адсюль пэўныя антыпольскія і антылітоўскія настроі). З мэтай стварэння кааліцыі дзяржаў для барацьбы супраць Турцыі беспаспяхова дамагаўся ў 1517 заключэння міру паміж ВКЛ і Рус. дзяржавай (для гэтага прапаноўваў ВКЛ пакінуць апошняй Смаленск). Неаднаразова праязджаў па тэр. Беларусі (Барысаў, Берасце, Віцебск, Гародня, Друцк, Дуброўна, Крэва, Менск, Орша, Полацк і інш.). У 1549 у Вене на лац. мове выдадзена яго праца «Запіскі аб маскоўскіх справах» («Rerum Moscoviticarum Commentarii», найб. поўнае выданне, Базель, 1556; уласны пераклад Г. на ням. мову, Вена, 1557). У творы Г. выкарыстаў розныя пісьмовыя зах.-еўрап. і ўсх.-слав. крыніцы, матэрыялы ўласных гутарак і назіранняў. Ёсць звесткі гіст.-этнагр., паліт. і культ. зместу пра Беларусь і Літву: апісаны заняткі (земляробства, жывёлагадоўля, паляванне, некат. промыслы), побыт насельніцтва, рэліг. вераванні, абрады, гандл. сувязі, а таксама буйныя



**Геранёны**. Мікалаеўскі касцёл, руіны замка. Гравюра з малюнка Н.Орды. Сярэдзіна 19 ст.




С.**Герберштэйн** у багатай вопратцы, падараванай Васілём III. Размаляваная гравюра. 16 ст.

рэкі, крэпасці, узаемаадносіны ВКЛ з інш. дзяржавамі. Г. прывёў генеалогію вял. князёў літоўскіх, параўноўваў дзярж. службу ў ВКЛ і Маскоўскай Русі. Змешчаны звесткі пра К.Астрожскага, падрабязна апісана паўстанне М.Глінскага, асабісты лёс апошняга. Пры апісанні Вільні Г. адзначыў неаднолькавы этнічны склад гар. насельніцтва, большую колькасць «рускіх» (праваслаўных) храмаў, чым каталіцкіх, крапасныя ўмацаванні. Апісаў таксама гандл. і пасольскі шляхі паміж Вільняй і Полацкам, але пра сам Полацк пакінуў мала звестак. У нарысах пра Маскоўскую дзяржаву імкнуўся акрэсліць яе магутнасць, даказаць беспадстаўнасць прэтэнзій ВКЛ на «рускія» землі. Нягледзячы на недакладнасць і паліт. тэндэнцыйнасць, міфічнасць асобных паведамленняў, кніга Г. — каштоўная гіст. крыніца 1-й чвэрці 16 ст. Яна карысталася вял. папулярнасцю ў зах.-еўрап. гістарыяграфіі 16—17 ст., а таксама ў рас. гісторыкаў (М.М.Карамзін і інш.). На падставе «Запісак» створаны шматлікія еўрап. карты Расіі і ВКЛ.

*Тв.*: Рус. пер.: Записки о московитских делах / Пер. А.И.Малеина. СПб., 1908; Записки о Московии / Пер. А.И.Малеина и А.В.Назаренко. М., 1988.

*Літ.*: Замысловский Е. Герберштейн и его историко-географические известия о России. СПб., 1884; Грыцкевіч В.П., Мальдзіс А.І. Шляхі вялі праз Беларусь: Нарыс. Мн., 1980; Хорошкевич А.Л. Сигизмунд Герберштейн и его «Записки о Московии» // Герберштейн С. Записки о Московии. М., 1988; Ключевский В.О. Сказания иностранцев о Московском государстве. М., 1991; Борисовская Н.А. Старинные гравированные карты и планы XV—XVIII веков. М., 1992.

***Сяргей Ходзін.***

**гербоўнік**, гербар, збор выяў гербаў у выглядзе рукапіснай або друкаванай кнігі. Вядомы з сярэдзіны 13 ст. З развіццём інстытута герольдаў Г. складаліся пры дварах манархаў, гал. чынам для правядзення рыцарскіх турніраў. У 1-й пал. 15 ст. гербы рыцарства ВКЛ змешчаны ў зах.-еўрапейскіх Г. «Armorial Lynceních» («Гербоўнік Лінцэніха», захоўваецца ў Бруселі), «Codex Bergschammar» («Кодэкс Бергсхамара», Стакгольм; у гэтым Г. ўпершыню змешчана «Пагоня»), «Armorial de la Toison d'Or» («Гербоўнік Залатога Руна», Парыж). Некалькі гербаў літ. і рус. князёў ёсць у хроніцы Канстанцкага сабора 1414—18 У.Рыхенталя. Старэйшы польскі Г. — «Insignorum clenodiorum Regis et Regni Poloniae descriptor» («Апісальнік адзнак і клейнодаў караля і Каралеўства Польскага», 2-я пал. 15 ст.), аўтарам якога лічаць Я.*Длугаша*. У Польшчы і ВКЛ выпрацавалася адмысловая форма Г., у якіх выява гербаў суправаджаліся кароткімі звесткамі пра гісторыю роду. У 17 ст. складзены «Гербоўнік рыцарства Вялікага княства Літоўскага» А.*Каяловіча*, аднак у ім змешчана толькі невял. частка гербаў шляхты ВКЛ.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Гербст** (Herbst) Станіслаў (12.6.1907, г. Везенберг, цяпер Раквярэ, Эстонія—24.6.1973), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1946), праф. звычайны (1961). Вучыўся ў Варшаўскім ун-це (1926—29). У 1935—39 працаваў у Аддзеле польскай архітэктуры і гісторыі мастацтва Варшаўскай політэхнікі, у 1935—37 — у міністэрстве рэліг. веравызнанняў і публічнай асветы, з 1941 у бібліятэцы Варшаўскага ун-та, удзельнічаў у падпольнай барацьбе Арміі Краёвай супраць ням. фашыстаў. У 1945—46 працаваў у Дзярж. ін-це гісторыі мастацтва, у 1946—73 выкладаў у Варшаўскім ун-це, у 1953—61 кіраўнік аддзела гіст. атласа Ін-та гісторыі Польск. АН, у 1957—68 выкладаў у Ваен. паліт. акадэміі ў Варшаве, у 1968—73 навук. супрацоўнік Гіст. ін-та. У 1967—73 старшыня навук. рады Мазавецкага цэнтра навук. даследаванняў у Варшаве, у 1969—73 старшыня навук. рады Яўрэйскага гіст. ін-та ў Польшчы. Працы па ваен. гісторыі новага часу, гісторыі гарадоў (у т.л. Варшавы і Замосця), метадалогіі гісторыі, гіст. геаграфіі Польшчы і Рэчы Паспалітай.

*Тв.*: Kleck 1506 r. // Przegląd historyczno-wojskowy. Warszawa, 1934. T. 7; Wojna moskiewska 1507—1508 // Księga ku czci Oskara Haleckiego. Warszawa, 1935; Wojna inflancka 1600—1602. Warszawa, 1938; Najazd tatarski 1512 r. // Przegląd historyczny. 1948. R. 37; Zarys nauk pomocniczych historii. Warszawa, 1948 (з А.Гейштарам); Miasta i mieszczaństwo Renesansu polskiego. Warszawa, 1954; Wojna obronna 1655—1660. Warszawa, 1957; Wojna inflancka 1603—1604 // Studia historica. Warszawa, 1958; Historia wojskowa: treść, dzieje, metoda i metodologia. Warszawa, 1961; Bitwa nad Wiedroszą 1500 r. // Wieki średnie. Warszawa, 1962; Potrzeba historii czyli O polskim stylu życia. T. 1—2. Warszawa, 1978 (змешчана бібліяграфія прац Г.); Z dziejów wojskowych powstania kościuszkowskiego 1794 roku. Warszawa, 1983.

*Літ.*: Zahorski A. Stanisław Herbst // Historycy warszawscy ostatnich dwóch stuleci. Warszawa, 1986.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гердзень** (?—1267), літоўскі князь. Прыхільнік вял. князя літоўскага *Войшалка*. 28.12.1263 (або ў 1264) выступіў пасрэднікам пры заключэнні мірнага дагавора паміж інфлянцкім магістрам і г. Рыга з аднаго боку і Полацкам і Віцебскам з другога. Гэтым дагаворам пацверджана заключанае раней пагадненне паміж немцамі і полацкім кн. *Канстанцінам*, урэгуляваны тэрытарыяльныя спрэчкі, што ўзніклі «в розмирьи» ў пач. 1260-х г., а таксама замацаваны прынцыпы вядзення гандлю і разгляду судовых спраў паміж бакамі. У прыватнасці, нямецкім купцам дазволена гандляваць у Полацкай зямлі, а палачанам і віцяблянам — у Рызе і на в-ве Готланд. Зацверджаны прынцып падсуднасці, згодна з якім справа павінна была разглядацца судом па месцы жыхарства адказчыка. Сярэдзіна 1260-х г. прайшла для Г. ў зацятай барацьбе з *Даўмонтам* (княжыў у Нальшчанах, з 1265 у Пскове). Варожасць Даўмонта да Г. тлумачыцца, магчыма, тым, што пасля падпарадкавання Нальшчанаў Войшалк перадаў іх Г. У 1266 Даўмонт на чале 270 пскавічоў напаў і разрабаваў «землю Литовскую» — уладанні Г., захапіў у палон



яго жонку Еўпраксію (сваю цётку) і 2 іх сыноў. Г. з інш. князямі сабраў 700 вояроў і вырушыў у пагоню. Даўмонт адправіў 180 чал. з палонам у Пскоў, а з астатнімі арганізаваў засаду. 18.6.1266, пасля таго як войска Г. пераправілася на правы бераг Дзвіны недалёка ад в-ва Гойдаў (дакладнае месцазнаходжанне не высветлена), атрад Даўмонта напаў на яго і ўшчэнт разбіў. Г. з невял. дружынай выратаваўся ўцёкамі. Зімой 1266—67 Даўмонт яшчэ раз хадзіў на Літву, а ў 1267 арганізаваў новы паход, у якім удзельнічалі псквічы і наўгародцы. У выніку гэтага паходу Г. быў забіты. Сын Г. Андрэй у 1289—1316 быў цвярскім епіскапам, памёр у 1323.

*Літ.*: Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896; Новгородская Первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950; Пашуто В.Т. Образование Литовского государства. М., 1959; Полоцкие грамоты XIII— начала XVI вв. Вып. 1, 3. М., 1977, 1980; Охотникова В.И. Повесть о Довмонте: Исследование и тексты. Л., 1985; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990.

***Васіль Варонін.***

**Герман з Вартберга** (Hermannus de Wartberge; ?—пасля 1378), храніст Інфлянцкага ордэна. Паходзіў, відаць, з Вестфаліі. Прыбыў у Інфлянты ў канцы 1350-х г. Быў капеланам інфлянцкіх магістраў. Удзельнічаў у дыпламатычных перагаворах і ваенных дзеяннях. Напісаная ім на лац. мове «Хроніка Інфлянтаў» («Chronicon Livoniae») — каштоўная крыніца па гісторыі Усх. Прыбалтыкі і суседніх зямель у 12—14 ст. Яна ахоплівае час ад з'яўлення ў Інфлянтах біскупа Майнарда, датаванага легендарным 1143, і да пач. 1378. Звесткі за 12—1-ю пал. 14 ст. кароткія, нярэдка запазычаны з інш. крыніц. Запісы за гэты час нерэгулярныя, з пропускам многіх гадоў. З сярэдзіны 14 ст. яны больш сістэматычныя і дэталёвыя, з 1357 штогадовыя. Пры выкладанні падзей 12—1-й пал. 14 ст. Г. з В. карыстаўся хронікай *Генрыха Латвійскага* і «Інфлянцкай рыфмаванай хронікай». Крыніцай пазнейшых запісаў сталі яго ўласныя ўспаміны, расказы сведкаў і ўдзельнікаў падзей, а таксама дакументальны матэрыял ордэнскага архіва. У цэнтры ўвагі храніста — Інфлянцкі ордэн і яго ваенна-паліт. гісторыя: змена магістраў і іх дзейнасць, сітуацыя ў Інфлянтах, адносіны ордэна з суседзямі. Вял. месца займае апісанне ваенных паходаў і сутычак крыжакоў з жыхарамі суседніх літ., бел., пскоўскіх і эстонскіх зямель. Хроніка дае унікальныя звесткі па ваеннай, паліт. і сац. гісторыі паўн. і паўн.-зах. Беларусі. Надзвычайную актуальнасць для храніста мела гісторыя канфлікту ордэна з г. Рыга і рыжскімі арцыбіскупамі. Ён імкнецца ўсяляк апраўдаць пазіцыю і дзеянні ордэна. У хроніцы адлюстраваны і асобныя факты з гісторыі інш. краін, у прыватнасці Украіны і Польшчы.

*Літ.*: Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863; Сборник материалов и статей по истории Прибалтийского края. Т. 2. Рига, 1879; Зутис Я. Очерки по историографии Латвии. Ч. 1. Рига, 1949; Vahtre S. Kroniki bałtyckie (inflanckie) XIII—XVIII wieku jako źródła historyczne: (Stan badań) // Zapiski historyczne. 1969. Z. 4.

***Васіль Варонін.***

**Гескія**, мастакі (бацька і сын).

Францішак Ксаверый Дамінік (1700?, Саксонія або Баварыя— 4.12.1764), прадстаўнік эпохі позняга барока і ракако. Працаваў у разнастайных відах і жанрах мастацтва — станковым і манументальным жывапісе, графіцы, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Валодаў нямецкай, французскай, польскай мовамі. Больш як 35 гадоў быў прыдворным мастаком князёў Радзівілаў (у 1752 атрымаў званне «першага мастака»). У першы перыяд (1727—40) працаваў у замку княгіні Ганны Радзівіл з Сангушкаў у *Белай*, дэкарыраваў палац у Славяцінску, стварыў вял. колькасць станковых твораў для розных рэзідэнцый княгіні. Ад гэтага часу захаваўся падпісаны мастаком партрэт Яна Радзівіла (1733) з серыі партрэтаў у лаўровым вянку. Наступны, нясвіжскі перыяд (1740—64) можна рэканструяваць паводле інвентарных вопісаў інтэр'ераў палацаў у Нясвіжы (Замак і Эрмітаж), Гародні, Алыцы, якія дэкарыраваў у гэты час мастак (інтэр'еры не захаваліся) і жывапісу Нясвіжскага касцёла Божага Цела. У 1751 разам з брыгадай прыдворных мастакоў упрыгожваў палац Радзівілаў у Берасці (не захаваўся). У 1750—53 з той жа брыгадай выконваў размалёўку Нясвіжскага касцёла Божага Цела, дзе найбольш значнай аўтэнтычнай працай мастака быў вял. алтарны абраз «Тайная вячэра». З 1752 рыхтаваў эскізы ўзораў (кардонаў) для габеленаў, якія адначасова былі і станковымі палотнамі гіст. жанру. Паводле дакументаў 1753 выканаў дэкарацыі Слуцкага тэатра, дакументаў 1753—54 — жывапісныя работы (6 партрэтаў у 1753 і 9 карцін у 1754). У 1756—58 зрабіў жывапісна-дэкарацыйныя работы ў Нясвіжскім кляштары бенедыкцінак.

Юзаф Ксаверый (1730?—1810?). Яго біяграфія вядома з дакумента 1794, напісанага мастаком на імя Кацярыны II з просьбай выплаціць яму грошы, якія недаплацілі за працу М.К.Радзівіл Рыбанька і яго сын К.С.Радзівіл Пане Каханку. У 1753—81 выконваў абавязкі камісара па сплаве лесу. Адначасова з брыгадай прыдворных мастакоў выконваў станковыя і манументальныя жывапісныя і графічныя работы пад кіраўніцтвам бацькі, упрыгожваў інтэр'еры палацаў, замкаў і храмаў у радзівілаўскіх уладаннях. Дакументальна пацверджана яго размалёўка дамініканскага касцёла ў Нясвіжы (1763, не захаваўся). Яму прыпісваецца размалёўка дамініканскага касцёла ў Стоўбцах (не захаваўся). У Нац. музеі ў Варшаве знаходзіцца падпісаны Г. гравюрны ліст з выявай Фабіяна — прыёра касцёла ў Стоўбцах у 17 ст. Вядома гравюра мастака з выявай герба старадубскага падкаморыя Р.Гімбута-Кунасевіча ў кнізе нясвіжскага бернардзінца Д.Шышкі (Вільня, 1756). У 1759 і 1782



Да арт. **Гескія**. Ю.К.Гескі. Партрэт Станіслава Аўгуста Панятоўскага. 1783.



Да арт. **Гескія**. Ф.К.Д.Г е с к і. Тайная вячэра. 1753.

удзельнічаў у манументальна-дэкаратыўных работах у Нясвіжскім кляштары бенедыкцінак. У 1783 рыхтаваў залы замка да прыёму караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Юзафу Ксаверыю прыпісваюць выкананне партрэта караля (цяпер захоўваецца ў Нац. мастацкім музеі Беларусі).

*Літ.*: T a u r o g i ń s k i B. Dane archiwalne o artystach na dworze książąt Radziwiłłów XVI—XIX w. // Prace i materjały sprawozdawcze Sekcji historii sztuki. Wilno, 1938/39. T. 3; W i t w i ń s k a M. Topografia i kierunki malarstwa ściennego w Polsce około połowy XVIII wieku // Biuletyn historii sztuki. 1983. № 2; С ы р а к о м л я У. Вандроўнікі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, даследаванні гісторыі і звычаяў. Мн., 1992.

***Вольга Бажэнава.***

**гетман** (польск. hetman ад ням. Hauptmann), галоўны начальнік над узброенымі сіламі дзяржавы ў ВКЛ і Польшчы ў 15—18 ст. У ВКЛ чын Г. вядомы з канца 15 ст., аднак поўнае вызначэнне яго функцый і юрыд. афармленне гетманства як дзярж. пасады звязана з менскай ухвалай Жыгімонта I Старога за 1507. Вял. князь як непасрэдны кіраўнік дзяржавы і войска прызначаў замест сябе Г., надзеленага дыктатарскімі паўнамоцтвамі: ён мог караць падначаленых за парушэнне дысцыпліны, гвалт над насельніцтвам і г.д. Правы Г. ў дачыненні да войска канчаткова ўнармавала «Вайсковая ўстава» 1511 і ўхвала сойма 1516. Існавалі пасады Г. найвышэйшага (у 17—18 ст. ён называўся вялікім) і польнага. Паводле Статутаў ВКЛ іх маглі займаць толькі падданыя ВКЛ. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* пасада Г. найвышэйшага стала пажыццёвай. Атрымаўшы дадатковыя абавязкі, Г. набыў функцыі ваеннага міністра: ён мусіў камплектаваць узброеныя сілы, распараджацца *сярэбшчынай*, назіраць за станам памежных замкаў і інш. З 17 ст. гэтыя задачы сталі гал. абавязкам Г. Ствараць войска Г. мог толькі на падставе лістоў вял. князя, прысланых для наймання жаўнераў. Без дазволу манарха вял. Г. не мог праводзіць ніякіх перагавораў з непрыяцелем. Поўная гетманская ўлада, уключаючы права суда і смяротнага пакарання, распаўсюджвалася толькі на войска, непасрэдна падпарадкаванае Г. Звычайна гэта былі наёмнікі, а таксама прыватныя і павятовыя харугвы паспалітага рушэння, што далучыліся да гетманскага абозу.

*Літ.*: K u k i e l M. Zarys historji wojskowości w Polsce. Warszawa, 1922; S p i e r a l s k i Z. Geneza i początki hetmaństwa w Polsce // Studia i materiały do historii wojskowości. Warszawa, 1960. T. 5; W i s n e r H. Wojsko litewskie I połowy XVII w. Cz. 3 // Там жа. 1978. T. 21.

***Генадзь Сагановіч.***

**Гётке** (Götke) Конрад (?, Швецыя—пасля 1652), гравёр. З 1642 жыў у Вільні і, магчыма, у Любчы. Ілюстраваў кнігі *Віленскай акадэмічнай друкарні* і *Любчанскай друкарні*. У кнізе П.Ляцкага «Сем герояў Хадкевіча» (Вільня, 1642) выканаў гравіраваны тытульны ліст, герб Хадкевічаў, партрэт Я.К.Хадкевіча. У 1643 выканаў алегорыю на смерць вармінскага біскупа М.Шышкоўскага, а ў 1644 — партрэт плоцкага біскупа Карла Фердынанда Вазы ў кн. «Свяшчэнная дарога» (Вільня). Аўтар партрэтаў і гербаў старасты жамойцкага Я.А.Ляцкага (1647) і падкаморыя ваўкавыскага А.Дольскага (1648) у прысвечаных ім панегірыках. Да кніг міністра віленскага лютэранскага збору Е.Шонфлісіуса «Сад душы чалавечай» (Любча, 1648) і «Пасціла хрысціянская» (Любча, 1652) выканаў тытульныя лісты, ілюстрацыі, віньеткі, партрэт аўтара. У кнізе А.Ф.Бачкоўскага «Яснавяльможнага





К.**Гётке**. Тытульны ліст кнігі П.Ляцкага «Сем герояў Хадкевічаў». Вільня, 1642.



роду Кішкаў аздоба» (1648) змешчаны 9 партрэтаў Кішкаў аўтарства Г. Выканаў партрэты навагародскага кашталяна В.В.Копаця, прадстаўнікоў родаў Хадкевічаў і Тышкевічаў.

*Валерый Пазднякоў.*

**гіберна** (ад лац. hibernus зімовы), падатак на ўтрыманне войска ў Рэчы Паспалітай. Бярэ пачатак з аднайменнай павіннасці зімовага ўтрымання войска і забеспячэння яго харчам, якую неслі жыхары дзярж. і царк. уладанняў (шляхецкія маёнткі былі вольнымі ад яе). У 1649—52 павіннасць заменена на штогадовы падатак (у ВКЛ — з 1676). Скасавана соймам у 1775. Памеры падатку вызначаліся соймамі ў адпаведнасці з патрэбай, у ВКЛ у 1-й пал. 18 ст. дасягала 0,5 млн. злотых. З Г. рабіліся выплаты гетманам, польным пісарам і інш. вайсковым службоўцам.

*Літ.*: Socha Z. Hiberna: Studjum z dziejów skarbowości w dawnej Polsce. Lwów, 1937.

*Валерый Пазднякоў.*

**Гіжыцкі** (Giżycki) Ян Марэк Антоні (псеўд. Wołyniak, Marek Gozdawa; 7.5.1844, в. Міхноўка на Валыні—27.6.1925), гісторык царквы. У 1865—66 вучыўся ў Адэскім ун-це, скончыў Дэрпцкі ун-т (1870). Працаваў настаўнікам гімназіі ў Дэрпце, з 1878 у Мітаве. З 1895 у адстаўцы, выхоўваў кн. В.Чартарыйскага. Пасля жыў у Кракаве, займаўся гіст. даследаваннямі, карыстаючыся ў асноўным архівамі кляштараў. Пісаў пра школьніцтва: «Нататка пра Акадэмію і школы езуітаў у Полацку» (1884), «Спіс школ Гродзенскай губерні на пачатку XIX ст.» (1885), «Некалькі слоў пра дзве даўнія школы на Падляшшы» (1888), «Базыльянская павятовая школа ў Вільні ў кляштары св. Тройцы» (1894), «Пра школу Кейданскую ў XIX ст.» (1896). Даследаваў гісторыю манаскіх ордэнаў: «Базыльянскі кляштар у Лядах на Белай Русі» і «Базыльяне на Жмудзі» (1891), «Уніяты ў Курляндыі» (1894), «Успаміны пра Баруны і уніятаў у Ашмянскім пав.» (1897), «Пра базыльян у Гумане» (1899), «Кляштары кармелітак босых у Польшчы, Літве і Русі» (т. 1—2, 1902), «З мінулага базыльянскага ордэна на Літве і Русі» (1904), «Спіс кляштараў уніяцкіх базыльян у Валынскім ваяводстве» і «Спіс абатаў базыльянскіх у Гродне» (1905), «Базыльянскія уніяцкія кляштары ў беларускай правінцыі» (1907), «Паведамленне пра дамініканаў літоўскай правінцыі» (1917), «З мінулага кармелітаў на Літве і Русі» (1918). Аўтар прац па гісторыі земляў зах. Беларусі: «Тэрыторыя даўняй зямлі Брэсцкай» (1889), «З мінулага Ваўкавыскага павета» (1905). Супрацоўнічаў з часопісамі «Przegląd naukowy i literacki» («Агляд навуковы і літаратурны»), «Kwartalnik historyczny» («Квартальнік гістарычны») і інш.

*Літ.*: Estreicher K. Bibliografia polska XIX stulecia. 2 wyd. Kraków, 1975. T. 8. S. 391—392.

*Святлана Канаплёва.*

**гізарма** (франц. guisarme), дрэўкавая зброя пяхоты, пашыраная ў сярэдневяков|і ў краінах Еўропы, у т.л. ў ВКЛ. Паходзіць, відаць, ад франц. прылады для высякання кустоў. Уяўляла сабой падоўжанае, насаджанае на дрэўка жалезнае палатно, верхні канец якога загінаўся наперад, так што атрымлівалася ўвагнутае лязо. На тыльным баку знаходзіўся доўгі загнуты ўгару крук (часам іх магло быць два — карацейшы і даўжэйшы), прыстасаваны для ўколаў. У познім сярэдневякоўі адбылася мадыфікацыя Г. — у агульнай аснове паявіліся доўгае простае вастрыё, а крыху ніжэй серпападобны, загнуты наперад крук ляза. Прыкладна пасярэдзіне тыльнай часткі наверша быў шып, а ў месцы насаджвання наканечніка на дрэўка яшчэ 2 шыпы, якія тырчалі ў розныя бакі. Г. ўжывалася з 11 ст., доўгая, каля 2—2,5 м, Г. выкарыстоўвалася ў Англіі, а ў 15 ст. пашырылася ў іншых еўрапейскіх краінах як зброя пяхоты. Пачынаючы з 16 ст. выцясняецца з шырокага ўжытку і да 17 ст. становіцца пераважна зброяй палацавай і дваровай варты. Пазней 17 ст. не выкарыстоўвалася.

*Літ.*: Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989; Винклер П. Оружие. М., 1992.

*Юрась Бохан.*

**Гінтаўты-Дзевалтоўскія**, шляхецкі род, гл. *Дзевалтоўскія*.

**Гіршберг** (Hirschberg) Аляксандр (15.12.1847, Львоў—27.7.1907), польскі гісторык. Чл.-кар. АН у Кракаве (1903), д-р габілітаваны (1875), праф. надзвычайны тытулярны (1903). Скончыў Львоўскі ун-т. Да 1875 выкладаў у Вышэйшай рэальнай школе ў Львове. З 1875 вучоны сакратар Цэнтра імя Асалінскіх, з 1876 хавальнік Б-кі Асалінскіх, адначасова з 1875 выкладаў у Львоўскім ун-це. Удзельнічаў у канспірацыйным руху за незалежнасць Польшчы. Вывучаў архівы Італіі, Германіі, Турцыі, Расіі, Грэцыі, Іспаніі, Швецыі. Працы па гісторыі Рэчы Паспалітай 16—17 ст., яе ўзаемаадносінах з Расіяй, пра «Смутны час». Выдаў шмат гіст. крыніц: «Збор мемуараў па гісторыі польскага паўстання 1830—1831 гг.» («Zbiór pamiętników do historyi powstania polskiego z roku 1830—1831», Львоў, 1882), «Успаміны Станіслава Немаеўскага» («Pamiętnik Stanisława Niemojewskiego. T. 1. 1606—1608», Львоў, 1899), «Польшча і Масква ў першай палове 17 ст.: Збор матэрыялаў па гісторыі польска-расійскіх адносін пры Жыгімонце III» [«Polska a Moskwa w pierwszej połowie XVII wieku: Zbiór materyałów do historyi stosunków polsko-rossyjskich za Zygmunta III», Львоў, 1901, змешчаны дзённікі Я.П.Сапегі і В.Дыяментоўскага (у сапраўднасці А.Ражнятоўскага)].

*Тв.*: O życiu i pismach Justa Ludwika Decyusza, 1485—1545. Lwów, 1874; Jan Łaski arcybiskup gnieznienski sprzymierzeńcem sułtana tureckiego. Lwów, 1879; O dyplomacyi polskiej za Zygmunta I. Lwów, 1880; Przymierze z Francją w roku 1524. Lwów, 1882; Z dziejów polityki polskiej. Lwów, 1882; Hieronim Łaski. Lwów, 1888; Dymitr Samozwaniec. Lwów, 1898; Dla czego Polacy popierali drugiego Dymitra Samozwańca. Lwów, 1904; Maryna Mniszchówna. Lwów, 1906 (2 wyd. 1927).

*Валерый Пазднякоў.*

**Гірэі**, Г е р а і, татарская дынастыя з нашчадкаў Чынгісхана, якая панавала ў *Крымскім ханстве* з сярэдзіны 15 ст. да 1783. Першы хан Хаджы-Гірэй захапіў уладу пры падтрымцы вял. князя літоўскага Казіміра і татарскіх крымскіх князёў з роду Шырын у 1443 [да гэтага часу Крымскае ханства намінальна падпарадкоўвалася хану Залатой (Вялікай) Арды Кічы-Мухамеду]. Паводле польскіх крыніц, Хаджы-Гірэй нарадзіўся ў ВКЛ, у г. Трокі. Яго дзейнасць была накіравана на ўмацаванне ўлады дынастыі ў Крыме і на абарону сваіх уладанняў ад інш. прэтэндэнтаў на трон. Ён меў сяброўскія адносіны з Казімірам, даволі мірныя адносіны з Маскоўскай дзяржавай, імкнуўся забяспечыць сваю незалежнасць ад Турцыі. Пасля смерці Хаджы-Гірэя ў выніку працяглай барацьбы ханам стаў яго малодшы сын Менглі-Гірэй, які займаў трон з 1466 да 1515 (з 2 невял. перапынкамі). З 1475 Крымскае ханства

трапіла ў васальную залежнасць ад Турцыі, турэцкія султаны прызначалі ханаў выключна з нашчадкаў Г. Спачатку адносіны Г. з паўн. суседзямі былі прыязныя, але пасля таго, як Казімір заключыў саюз з ханам Залатой (Вялікай) Арды Ахметам (саюз фактычна не быў накіраваны супраць Крыма), адносіны сапсаваліся, і Менглі-Гірэй заключыў ваенна-паліт. саюз з Маскоўскай дзяржавай. З канца 15 ст. пачаліся частыя набегі крымскіх татараў на паўд. уладанні ВКЛ і Польскага каралеўства, на Падолле, Валынь, Кіеўскую і Ноўгарад-Северскую землі. Нягледзячы на шэраг перамір'яў з ВКЛ, крымскія татары працягвалі спусташаць і бел. землі. Асобныя татарскія загоны пранікалі на Віцебшчыну і Полаччыну, асаджвалі Слуцк і Навагародак, спалілі Менск. Найб. буйнымі былі набегі ў 1503, 1506, 1508, 1510, 1521, 1527. За 1497—1527 крымскія татары зрабілі 12 набегаў. Асобныя татарскія орды не падпарадкоўваліся Г. Нагайскія, дабруджынскія, даперакопскія татарскія гурты рабілі набегі на Украіну і Польшчу, не пытаючыся на гэта дазволу і згоды ў крымскага хана. У той жа час атрады падняпроўскіх і запарожскіх казакоў нападалі на турэцкіх і крымскіх паслоў і купцоў, на турэцкія і крымскія землі, што таксама абвастрала адносіны паміж дзяржавамі. У 16 ст. Г. заключалі і неаднаразовыя саюзы з ВКЛ і Польшчай супраць Масквы: у 1507, 1512, 1532, 1535, 1540, 1542, 1559. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* крымскія татары выступалі на баку Польшчы. Пасля ўступлення ў вайну Швецыі крымскі хан Мехмед-Гірэй стварыў пагрозу нападу на Украіну і тым самым стрымаў запарожскіх казакоў ад выступлення супраць Польшчы. У 1648 крымскія татары разбілі венгерскія войскі прэтэндэнта на польскі трон сяміградскага князя Дз.Ракацы. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* крымскі хан Іслам-Гірэй III спачатку падтрымліваў Б.Хмяльніцкага (1648—49) і быў пасрэднікам пры заключэнні Збораўскага міру 1649, пасля адышоў ад яго і ў 1653 уступіў у саюз з Польшчай. Апошні з дынастыі Г. крымскі хан Шагін-Гірэй пад прымусам расійскага ўрада ў лют. 1783 адмовіўся ад трона, а Крымскае ханства было далучана да Расіі.

*Літ*: Смирнов В.Д. Крымское ханство под верховенством Отоманской Порты до начала XVIII в. СПб., 1887; Сафаргалиев М.Г. Распад Золотой Орды. Саранск, 1960; Греков И.Б. Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV—XV вв.). М., 1975; Podhorodecki L. Chanat Krymski i jego stosunki z Polską w XV—XVIII w. Warszawa, 1987.

*Ібрагім Канапацкі.*

**«Гісторыка-юрыдычныя матэрыялы»** («Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской, хранящихся в Центральном архиве в Витебске...»), серыйнае выданне дакументаў па гісторыі ўсх. Беларусі 16—18 ст. Выдадзена ў 1871—1906 (вып. 1—32) Віцебскім цэнтр. архівам стараж. актаў. Складальнікі і рэдактары А.М.Сазонаў (вып. 1—16), М.М.Мяшчэрскі і М.Л.Вяроўкін (вып. 17), Вяроўкін (вып. 18—26), Дз.І.*Даўгяла* (вып. 27—32). З 17-га кожны выпуск мае імянны і геаграфічны паказальнікі. Назвы, змест асобных дакументаў, прадмовы, а таксама першыя 5 выпускаў пададзены ў перакладзе на рус. мову, астатнія — на мове арыгінала. Пераважная частка дакументаў выдадзена ўпершыню і датычыцца гал. чынам сац.-эканам. боку жыцця гарадоў рэгіёна. Большасць іх адносіцца да гісторыі Магілёва (вып. 7—16, 30, 32 і часткова інш.). Сярод дакументаў: прыходна-расходныя кнігі магістрата Магілёва за 1583—1716; акты земскіх і гродскіх судоў Віцебска, Мсціслава, Оршы, Полацка за 1534—1789; акты віцебскага, магілёўскага і полацкага магістратаў за 1577—1791; крычаўскай і ўшацкай магдэбургій за 1662—1771; каралеўскія прывілеі, інвентары і дакументы пра побыт і права Полаччыны і Віцебшчыны за 1506—1781; дакументы Чачэрскага старства за 1629—1726; фундушы, інвентары і і дакументы па гісторыі царквы за 1618—1766 і інш. Найб. цікавыя: дакументы пра стварэнне і дзейнасць цэхаў у Магілёве (вып. 8); «Аршанскі гербоўнік» з генеалагічнымі табліцамі і тлумачэннямі (вып. 28); перадрук часопіса езуітаў «Плады духоўныя» («Fructus Spirituales»); інвентары маёнткаў, падараваных Стафанам Баторыем Полацкаму езуіцкаму калегіуму (вып. 19—21); вопіс межаў паміж ВКЛ і Рас. дзяржавай (вып. 3, 4); звесткі пра суднаходства па Дзвіне, Уле (вып. 4, 22); па метралогіі, тапаніміцы і гіст. геаграфіі Беларусі; дакументы, што тычацца біяграфіі падарожніка М.Пржавальскага (вып. 20) і інш.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 170—202.

*Сяргей Ходзін.*

**«Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах»**, гл. ў арт. *«Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі»*.

**«Гісторыя пра Апалона Цірскага»**, помнік перакладной беларускай літаратуры, свецкая аповесць блізкаўсходняга паходжання. Бытавала на Беларусі ў 17—18 ст. У аснове твора — апісанне прыгод гал. героя, чалавека знатнага паходжання з грэч. г. Ціра, які шмат гадоў блукаў па розных краях, трапляў у самыя незвычайныя і складаныя сітуацыі і гісторыі, пасля чаго шчасліва вярнуўся ў родны горад, дзе стаў царом. На Беларусі распаўсюджвалася ў складзе зб. *«Рымскія дзеянні»*.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**«Гісторыя пра Атылу»**, помнік перакладной літаратуры Беларусі 2-й пал. 16 ст., беларускі пераклад гістарычнай аповесці венгерскага пісьменніка-гуманіста Міклаша Олаха. Зроблены ў асяроддзі шляхты з польскага друкаванага выдання 1574. Захавалася ў адзіным спісе ў *«Пазнанскім зборніку»* (каля 1580), які паходзіць з Навагародчыны. У творы падаюцца падзеі 5 ст., эпохі «вялікага перасялення народаў», апісваюцца ваенныя паходы гунскіх плямён пад кіраўніцтвам «біча Божага» Атылы ў Італію і Францыю, аблогі гарадоў, славутая бітва на Каталаунскіх палях і інш., раскрываецца гераізм еўрап. народаў у барацьбе супраць нашэсця варвараў. Атыла паказаны як выдатны палкаводзец, правадыр гунаў, якія атаясамліваюцца з униграмі (венграмі), як станоўчы герой еўрап. гісторыі. У творы адлюстраваны погляды перадавых венгерскіх колаў эпохі Адраджэння, якія перад тварам турэцкай небяспекі марылі пра мудрага і магутнага правадыра нацыі, лічылі гунаў сваімі продкамі і ў патрыят.-асветных мэтах імкнуліся ўзнавіць гераічныя старонкі далёкай мінуўшчыны свайго народа. Пераклад гэтай гіст. аповесці на бел. мову сведчыць пра вял. цікавасць на Беларусі ў 16 ст. да твораў гісторыка-гераічнай тэматыкі, да гісторыі інш. краін і народаў. Бел. пераклад выкананы свецкім стылем старабел. мовы, свабодным ад архаічных старaслав. элементаў.

*Літ.*: Веселовский А.Н. Из истории романа и повести. Вып. 2. СПб., 1888;



Zoltán A. Oláh Miklós *Athila* című munkájának XVI a. századi lengyel és fehérorosz fordítása. Nyíregyháza, 2004.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Гісторыя пра Варлаама і Іасафа»**, помнік перакладной беларускай літаратуры 17 ст. Арыгінал узнік у Індыі на аснове нар. паданняў пра Буду, праз персідскае і арабскае пасрэдніцтва стаў вядомы грэкам, у 11 ст. ўсх. славянам. У аповесці апісваецца жыццё індыйскага царэвіча Іасафа, які пад уплывам хрысціянскага прапаведніка Варлаама прыняў новую веру, стаў фанатычным яе прыхільнікам, далучыў да хрысціянства свайго бацьку і народ, пакінуў свецкае жыццё, зрабіўся пустэльнікам. Бел. пераклад надрукаваны ў 1637 у *Куцеінскай друкарні,* стаў непасрэднай крыніцай рус. перакладу, апублікаванага Сімяонам Полацкім у 1680 у Маскве. Прытчы з аповесці пранікалі ў вусную нар. творчасць. У 18 ст. на Беларусі ўзнікалі фалькл. перапрацоўкі твора («Алісахвій-царэвіч» і інш.).



Ілюстрацыя да **«Гісторыі пра Варлаама і Іасафата»**. Дрэварыт. Куцейна, 1637.

*Літ.*: Повесть о Варлааме и Иоасафе: Памятник древнерусской переводной литературы XI—XII вв. Л., 1984.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**«Гісторыя Траянскай вайны»**, гістарычная беларуская перакладная аповесць 15 ст., гл. «*Троя*».

**Гіціх** Міхаіл (?—1654), літаратар, палеміст. Нарадзіўся на Беларусі. Выхоўваўся ў духу арыянства. З 1607 вучыўся ў Альтдорфскай гімназіі (Германія), адкуль выключаны за прапаганду прагрэсіўных ідэй. У 1611 вярнуўся на Беларусь, жыў у Навагародку. Паслядоўнік С.*Буднага*. Вядомы філасофскімі трактатамі, палемікай і перапіскай з сябрамі. Пісаў на лац. мове. У 1612 напісаў трактат «Аб задавальненні Хрыста». Палеміка Г. з альтдорфскім прафесарам Л.Люцыусам надрукавана пад назвай «Аб задавальненні... паміж М.Гіціхам, сацыніянцам, і Л.Люцыусам артадоксам» (Базель, 1628). У 1649 склаў алфавітны даведнік «Багаслоўскія зборнікі». У перапісцы з польскімі мысліцелямі Я.Крэлем, І.Маскажэўскім, М.Руарам выказаў думкі пра сілу чалавечага розуму і законы прыроды (апубл. ў Амстэрдаме, 1677).

***Якаў Парэцкі.***

**Гладкі** Мацвей (?—1648 або чэрв. 1653), адзін з кіраўнікоў паўстанцаў у *антыфеадальнай вайне 1648—51* на Украіне і Беларусі. Палкоўнік Запарожскага Войска. Летам 1648 Б.Хмяльніцкі накіраваў Г. з казацкімі загонамі (атрадамі) на Беларусь. У Кобрыне яго казакі з дапамогай мясц. паўстанцаў разграмілі полк драгунаў стольніка ВКЛ В.А.Гасеўскага. У Мазырскім пав. перамаглі войска У.Валовіча, потым занялі Пінск. Але войскі ВКЛ пад камандаваннем стражніка Р.Мірскага ўварваліся ў горад і пасля працяглага бою занялі яго (гл. *Пінска абарона 1648*). Толькі невял. частка казакоў выратавалася і ўцякла па р. Піна. Паводле адных звестак Г. загінуў на рацэ, паводле інш. — па загадзе Хмяльніцкага пакараны смерцю за парушэнне Белацаркоўскага дагавора 1651.

*Літ.*: Kotłubaj E. Życie Janusza Radziwiłła... Wilno; Witebsk, 1859. S. 125; Белоруссия в эпоху феодализма. Сб. документов и материалов. Мн., 1960. Т. 2. С. 42; Документи Богдана Хмельницького, 1648—1657. Київ, 1961. С. 293.

***Васіль Мялешка.***

**Глаўбіц** (Glaubitz, Hlaubicz) Іаган (Ян) Крыштоф (1700?, Сілезія—3.3.1767), архітэктар. З імем Г. звязана стварэнне стылю *віленскага барока*. У 1737—67 працаваў у Вільні, аднаўляў храмы, што згарэлі ў час пажару ў 1737, і будаваў новыя: касцёл св. Яна (1737), лютэранскую кірху (1737—38), касцёлы св. Казіміра (1741—57), св. Кацярыны (1741—73), візітак, св. Рафала (абодва 1751), дамініканцаў на Кальварыі; капліцу Барбары; браму манастыра базыльян (1761); ратушу; палац езуітаў і інш. Пабудаваў на Беларусі: Сталавіцкі касцёл Яна Хрысціцеля, Спаскую царкву ў Магілёве, Беразвецкі манастыр базыльян, Глыбоцкі кляштар кармелітаў, Магілёўскі архірэйскі палац, касцёл базыльян і палац мітрапаліта Ф.Грабніцкага ў в. Струнь каля Полацка (1748—49), амбон, спавядальню і алтары Слонімскага касцёла бернардзінак (1751—65), Забельскі кляштар дамініканцаў, інтэр'ер Лідскага Крыжаўзвіжанскага касцёла; перабудаваў Полацкі Сафійскі сабор (1738—50). Мяркуюць, што Г. удзельнічаў у буд-ве Віцебскай ратушы, Дзятлаўскага касцёла Успення Багародзіцы, Быстрыцкага Крыжаўзвіжанскага касцёла, вежы Гарадзенскага касцёла бернардзінцаў, палаца ў в. Лявонпаль (1750), плябаніі пры Гайцюнішскай капліцы (1757) і інш.

*Літ.*: Lorents S. Jan Krzysztof Glaubitz, architekt wileński XVIII w.: Materiały do biografii i twórczości. Warszawa, 1937; Drema V. Materiały do historii sztuki Wielkiego Księstwa Litewskiego: Jan Krzysztof Glaubicz. Jan Hedel. Jan Melich// Biuletyn historii sztuki. 1980. № 1.

**Глеб** (?—пасля 1258), князь ваўкавыскі ў сярэдзіне 13 ст. Відаць, належаў да дынастыі гарадзенскіх князёў. Каля 1255 аддаў дачку (Алену?) замуж за *Рамана Данілавіча,* князя навагародскага і слонімскага (яго 2-і шлюб). Зімой 1255—56 удзельнічаў у вял. паходзе на яцвягаў Данілы Раманавіча, сярод удзельнікаў былі Леў, Шварн і Раман Данілавічы, свіслацкі князь Ізяслаў, мазавецкі князь Земавіт, войскі польскага князя Баляслава з Сандаміра і Кракава. Літоўскія князі Войшалк і Таўцівіл у адказ за ўдзел галіцка-валынскіх князёў у паходзе мангола-татарскіх войск Бурундая на Верхняе Панямонне і Нальшчанскую зямлю у 1258 адбілі Навагародак, захапілі ў палон Рамана Данілавіча і, відаць, забілі яго. Даніла Раманавіч, шукаючы сына, рушыў у Панямонне, узяў Ваўкавыск, дзе спадзяваўся захапіць Войшалка і Таўцівіла, аднак паланіў толькі Г., якога трымаў «во чести». Гэта звестка паказвае на тое, што Г. быў васалам ці саюзнікам літоўскіх князёў. Далейшы лёс Г. невядомы. Некат. гісторыкі атаясамлівалі Г. са сцепанскім князем Глебам.

***Валерый Пазднякоў.***

**глевія**, дрэўкавая зброя пяхоты, пашыраная ў сярэдневякоўі ў краінах Еўропы, у т.л. ў ВКЛ. Найб. верагодна, што паходзіць ад выпрастанай касы. Складалася з дрэўка даўжынёй 2—



2,5 м і асаджанага на ім наканечніка ў выглядзе вял. аднабаковага нажа. З цягам часу на тыльным баку ляза з'явіўся бакавы вертыкальны шып (часам падвойны), прызначаны для ўколаў. Відаць, у Італіі Г. выкарыстоўвалася з 12 ст., у Францыі, Англіі і Паўд. Германіі — з 14 ст., пазней пашырана ў інш. краінах Еўропы. З 16 ст. Г. страціла сваё баявое прызначэнне і ператварылася ў атрыбут палацавай і дваровай варты.

*Юрась Бохан.*

**Глезна** Іона, гл. *Іона I.*

**глейт,** ліст жалезны, гл. ў арт. *Ліст.*

**Глінскіх мяцеж 1508**, выступленне феадалаў у ВКЛ, якое ўзначаліў маршалак дворны Міхаіл Львовіч Глінскі з братамі Іванам і Васілём (гл. ў арт. *Глінскія*). Г.м. стаў вынікам барацьбы 2 груповак буйных феадалаў за ўладу ў дзяржаве ў канцы княжання вял. князя Аляксандра. Адзін з найбагацейшых і ўплывовых магнатаў М.Глінскі ўзначальваў групоўку, што выступала за незалежнасць ВКЛ і за перадачу велікакняжацкай улады пасля смерці Аляксандра яго малодшаму брату Жыгімонту. Але пасля выбрання вял. князем Жыгімонт, імкнучыся стаць незалежным ад груповак у ВКЛ, змяніў адносіны да М.Глінскага, які пасля перамогі над татарамі ў *Клецкай бітве 1506* меў вял. ўплыў. Супраць М.Глінскага выступіў яго асабісты вораг ваявода троцкі прыхільнік уніі з Польшчай Ян Забярэзінскі. М.Глінскі паскардзіўся вял. князю, што Забярэзінскі рыхтуе яго забойства, але Жыгімонт пакінуў скаргу без увагі. Тады М.Глінскі арганізаваў атрад з баяр-васалаў і сваякоў, 2.2.1508 напаў на дом Забярэзінскага каля Гародні і загадаў забіць гаспадара. Гэта стала пачаткам мяцяжу. М.Глінскі з атрадам пайшоў на Навагародак, адтуль на Палессе, дзе былі яго вял. маёнткі, у т.л. Тураў, і дзе ён меў апору сярод мясц. феадалаў. Будучы католікам, ён агітаваў бел. і ўкр. феадалаў абараняць праваслаўе. Крымскі хан Менглі-Гірэй падахвочваў М.Глінскага да мяцяжу. Вял. князь маскоўскі Васіль III, што ваяваў з ВКЛ (гл. *Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08*), прыслаў да М.Глінскага пасла, з якім у крас. 1508 было заключана пагадненне аб сумесных ваен. дзеяннях і аб перадачы занятых на Беларусі замкаў непасрэдна братам Глінскім. У радах мяцежнікаў змагалася толькі каля 2 тыс. чал., у асноўным васалы Глінскіх. Баярства Беларусі і Украіны мяцеж не падтрымала, таму паўстанцы зрабіліся дапаможным войскам вял. князя маскоўскага. М.Глінскі, пакінуўшы братоў у Мазыры, рушыў на Бабруйск, дзе злучыўся з арміяй князя В.І.Шамячыча, і ў маі 1508 яны разам асадзілі Менск, але ўзяць яго не змаглі (Слуцк таксама не быў узяты). Маскоўскія войскі і мяцежнікі спустошылі наваколлі Менска, Слуцка, Навагародка, Слоніма і населеныя пункты за Віліяй. Пасля прыбыцця гал. сіл войска ВКЛ атрады Шамячыча і Глінскага па загадзе Васіля III адышлі да Оршы, дзе размяшчалася гал. маскоўская армія. У ліп. 1508 М.Глінскі збіраўся даць рашаючую бітву войскам ВКЛ, перамагчы і вярнуцца ў цэнтр. Беларусь, але Васіль III не хацеў рызыкаваць, маючы ў тыле незанятую магутную крэпасць Смаленск. Маскоўскія войскі адышлі да Мсціслава і Крычава, дзе рабавалі навакольныя валасці, а М.Глінскі адступіў у Старадуб, потым, сабраўшы сваіх прыхільнікаў, перабраўся ў Мазыр, каб працягваць барацьбу. Але 19.9.1508 паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай было падпісана пагадненне аб «вечным міры», на Палессе рушыла войска ВКЛ на чале з гетманам К.Астрожскім. Па загадзе Васіля III М.Глінскі з братамі і васаламі ў пач. ліст. 1508 перабраўся ў Маскву, дзе атрымаў у якасці ўдзела Малаяраславец і Бароўск. Г.м. не дасягнуў мэты: вярнуць магнатам Глінскім пануючае становішча і былыя пасады не ўдалося. З самага пачатку мяцеж, які не падтрымала асн. частка бел. і ўкр. феадалаў, быў выкарыстаны вял. князем маскоўскім Васілём III для заваявання Беларусі і спусташэння бел. земляў. Г.м. дапамог Васілю III заключыць выгадны для яго мір, паводле якога за Маскоўскай дзяржавай былі замацаваны вял. тэрыторыі, захопленыя ў час папярэдніх войнаў.

*Літ.:* Wojciechowski Z. Zygmunt Stary (1506—1548). 2 wyd. Warszawa, 1979. S. 94—97; Соловьев С.М. Сочинения. М., 1989. Кн. 3. С. 214—215, 217—221.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Глінскія**, княжацкі род у ВКЛ і Маскоўскім вял. княстве. Карыстаўся ўласным гербам, які, магчыма, паходзіць ад татарскай родавай тамгі і сімвалізуе княжацкі пасад, перад ім скіпетр дзяржаннем уніз, з расшчэпленым верхам. Род меў татарскія карані, генеалагічная традыцыя звязвае яго з Мамаем, сын якога, Мансур-Кіят, нібыта пакінуў сыноў Скідыра і Лексу (у хрышчэнні Аляксандр). Апошні выехаў у ВКЛ, прыняў праваслаўе і атрымаў ад вял. князя Вітаўта землі на мяжы з Залатой Ардой і гарады Палтаву і Глінск (паселішчаў з такой назвай у 15—16 ст. было тры, відаць, родавым гняздом Г. быў Глінск на месцы сучаснага г. Залатаноша ў Чаркаскай вобл. Украіны). Першым у гіст. крыніцах у 1398 упамінаецца Іван Аляксандравіч Г., які быў жанаты з дачкой кн. Данілы Астрожскага Настассяй і пакінуў 3 сыноў: Барыса, Фёдара і Сямёна. Ад апошняга пайшла малодшая галіна Г. Сярод яе прадстаўнікоў найб. вядомы ўнук Сямёна Багдан Фёдаравіч (?—1512), намеснік пуціўльскі, які пры заняцці Пуціўля рас. войскамі ў 1500 трапіў у палон і застаўся ў Маскве. Яго сын Уладзімір у 1532 вярнуўся ў ВКЛ, у 1540 зноў з'ехаў у Маскву. 2-і ўнук Сямёна Фёдар Іванавіч у 1508 атрымаў ад вял. князя ВКЛ сёлы Амбросавічы, Саннікі, Аўдзеевічы, Духаравічы на мяжы Полацкага і Віцебскага пав. Гэтыя маёнткі належалі потым яго сынам Івану, Багдану і Дзмітрыю. Брат Фёдара Іванавіча Сямён Іванавіч (?—1545), атрымаў ад бацькі маёнтак Пабоева ў Ваўкавыскім пав. і даў пачатак галіне Г.-Пабоеўскіх, якая паступова перастала карыстацца княжацкім тытулам. У 1817 яе прадстаўнік Іахім Г., ген.-маёр рас. арміі, атрымаў пацвярджэнне княжацкага тытулу ад дэпутацкага сходу Гродзенскай губ., але яно не было зацверджана Сенатам. Найб. вядомыя прадстаўнікі старэйшай галіны Г., пачатак якой паклаў Барыс Іванавіч (?—пасля 1451), служылы князь Свідрыгайлы Альгердавіча ў 1433—37. Ад шлюбу з удавой кн. Івана Карыбутавіча ён пакінуў 5 сыноў. З іх былі намеснікамі Грыгорый (?—1503) — оўруцкім, Іван (?—1496) — чарнігаўскім; Леў (?—каля 1495) — служылы князь Івана Юр'евіча Мсціслаўскага, пакінуў дачку Фядору, якая стала жонкай Марціна Храптовіча, і 4 сыноў: Івана, Васіля, Міхаіла і Фёдара. Фёдар памёр маладым пасля 1488, астатнія адыгралі значную ролю ў гісторыі ВКЛ. Найб. вядомыя:

Іван Львовіч (мянушка Мамай; каля 1460—да 1522), сын Льва Барысавіча. Упамінаецца з 1482, намеснік ожскі і пераломскі (1495), харужы земскі (1501), маршалак гаспадарскі ў 1501—07, ваявода кіеўскі (1505) і навагародскі ў 1507—08. Асноўныя маёнткі меў у



Кіеўскім пав. Падтрымаў малодшага брата Міхаіла ў час *Глінскіх мяцяжу 1508* супраць вял. князя літоўскага Жыгімонта Старога, разам з ім з'ехаў у Маскоўскае вял. княства, дзе атрымаў Мядынь. Пасля арышту Міхаіла істотнай ролі ў паліт. падзеях не адыгрываў. Яго сын Аляксандр і інш. дзеці памерлі маладымі.

Васіль Львовіч (мянушка Сляпы; каля 1465—1515), сын Льва Барысавіча. Намеснік васілішскі (1501), слонімскі ў 1505—06, староста берасцейскі ў 1506—07, падстолі ВКЛ у 1501—07. Валодаў Ласосінам у Слонімскім пав. і інш. маёнткамі. Прыняў актыўны ўдзел у мяцяжы братоў, таксама з'ехаў у Маскву. Меў сыноў Юрыя, Івана, Міхаіла і дачку Алену, якія разам з яго ўдавою Ганнай пакінулі значны след у гісторыі Расіі.

Міхаіл Львовіч (мянушка Мажны; каля 1470—24.9.1534), сын Льва Барысавіча. Маладым вучыўся ў Еўропе, быў у Германіі, Італіі, Іспаніі. Служыў у войску імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміляна I, вызначыўся выключнымі здольнасцямі і заслужыў асаблівую прыхільнасць імператара. Перайшоў у каталіцтва. У канцы 1490-х г. вярнуўся ў ВКЛ і хутка стаў набліжаным асобай вял. князя Аляксандра. Намеснік уцянскі (1498), маршалак дворны ў 1500—06, намеснік мерацкі ў 1501—05, бельскі ў 1505—06. Атрымаў ад вял. князя ВКЛ буйныя маёнткі Райгорад і Ганязь на Падляшшы, Мажэйкава (пад Лідай), Тураў і інш. Садзейнічаў узвышэнню старэйшых братоў, а таксама стрыечнага брата па жаночай лініі, сына Федкі Барысаўны Глінскай, Андрэя Аляксандравіча Дрожчыча, які ў 1504 стаў намеснікам лідскім. Імклівае ўзвышэнне Г. выклікала востры канфлікт паміж родам і старой літоўскай знаццю: Радзівіламі, Кезгайламі і асабліва з Янам Юр'евічам Забярэзінскім, асабістым ворагам Г. У 1506 Міхаіл Львовіч узначаліў войска ВКЛ, якое атрымала перамогу над татарамі ў *Клецкай бітве 1506*. Пасля смерці вял. князя Аляксандра сярод знаці ўзнікла занепакоенасць, што, вярнуўшыся на чале пераможнага войска, Міхаіл Львовіч паспрабуе захапіць уладу. Аднак ён прызнаў новага вял. князя ВКЛ Жыгімонта Старога і прынёс яму прысягу. Нягледзячы на гэта, трапіў у няміласць да новага гаспадара. Абвастрыўся канфлікт з Забярэзінскім. На пач. 1508 Міхаіл Львовіч арганізаваў наезд на маёнтак



Герб роду **Глінскіх**.

Забярэзінскага, забіў яго, пасля чаго з'ехаў у свой замак Тураў. У хуткім часе, падбухтораны пасламі вял. князя маскоўскага Васіля III, узняў мяцеж супраць Жыгімонта Старога, захапіў Мазыр і Бабруйск, з дапамогай маскоўскага войска ўчыніў аблогу Менска і Слуцка, спрабаваў утварыць на ўсх. землях ВКЛ самастойнае княства з цэнтрам у Кіеве. Мяцеж не падтрымала большасць шляхты, і Міхаіл Львовіч вымушаны быў паводле ўмоў мірнага пагаднення паміж Жыгімонтам Старым і Васілём III разам з родзічамі і прыхільнікамі пакінуць ВКЛ і з'ехаць у Маскву. Усе яго ўладанні ў ВКЛ былі канфіскаваны, у Расіі атрымаў Малаяраславец і Бароўск. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* у 1514 з войскам Васіля III удзельнічаў ва ўзяцці Смаленска, разлічваючы, што горад будзе перададзены яму. Не атрымаўшы Смаленск, пачаў тайныя перагаворы з Жыгімонтам Старым пра вяртанне ў ВКЛ, але быў кінуты рускімі ў турму, дзе знаходзіўся да 1527 (паводле інш. звестак да 1526). Па просьбе пляменніцы Алены, жонкі Васіля III, атрымаў волю і ў прыдачу Юр'евец, Старадуб і Рапалоў. Стаў ваяводам. Пасля смерці Васіля III у 1533 увайшоў у склад Вял. думы пры Алене — рэгентшы пры яе малалетнім сыне Іване IV. У хуткім часе ўзнік канфлікт паміж Міхаілам Львовічам і фаварытам Алены князем І.Ф.Целяпнёвым-Абаленскім, а таксама баярамі Шуйскімі. Міхаіла Львовіча ў 1534 кінулі ў турму, дзе ён і памёр. Адзіны яго сын Васіль, ад шлюбу з княжной Абаленскай, памёр у 1565.

Алена Васілеўна (каля 1505—13.4.1538), дачка Васіля Львовіча. У 1526 стала 2-й жонкай Васіля III, пасля смерці якога (1533) кіравала дзяржавай як рэгентша пры малалетнім сыне Іване IV. Пры ёй адбылася *вайна Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37*, у выніку якой ВКЛ вярнула Гомель. Памерла раптоўна, магчыма, была атручана.

Юрый Васілевіч (?—1547), сын Васіля Львовіча, дзядзька вял. князя маскоўскага Івана IV. Разам з маці Ганнай і братамі быў прыбліжаны Івана IV, які імкнуўся пазбавіцца засілля баярскіх груповак, што гаспадарылі ў краіне пасля смерці Алены. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння Івана IV першым рас. царом. Забіты каменнем у час бунту ў Маскве.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 79—92; Finkel L. Michał Gliński // Ateneum Wileńskie. 1925. Z. 9; Kuczyński S.M. Ziemie Czernihowsko-Siewierskie pod rządami Litwy. Warszawa, 1936; Бычкова М.Е. Родословие Глинских из Румянцевского собрания // Зап. отд. рукописей ГБЛ. М., 1977. Вып. 38.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Глогер** (Gloger) Зыгмунт (3.11.1845, Каменка Падляская Аўгустоўскага пав., Польшча—15.8.1910), польскі археолаг, этнограф. Скончыў Гал. школу ў Варшаве (1867). Арганізатар і 1-ы старшыня краязнаўчага т-ва ў Варшаве. Даследаваў помнікі археалогіі каменнага і бронзавага вякоў на тэр. Беларусі (найб. на Гродзеншчыне і Брэстчыне), Літвы і Польшчы. Выдаў шмат прац пра бел. драўляную архітэктуру, пісаў пра побыт, вераванні і абрады бел. народа. Матэрыялы некалькіх фалькл.-этнагр. і краязнаўчых экспедыцый змясціў у працы «Вясельныя ўрачыстасці» (1869), дзе побач з польск. даў апісанні абрадаў з Брэсцкага і Троцкага пав. У час. «Wisła» («Вісла») апублікаваў краязнаўчыя нарысы «Падарожжа Нёманам» (1888), «На хвалях Буга» (1890) і інш. З 1870 жыў у Яжэве (Польшча) і разам са сваёй жонкай А.Ельскай-Глогер (дачка гісторыка А.Ельскага) сабраў вял. музейную калекцыю археал. і этнагр. матэрыялаў, багатую бібліятэку і унікальную збраёўню, дзе захоўваліся бел. матэрыялы са збораў М.Федароўскага, А.Кіркора, Я. і К.Тышкевічаў, Ельскага і інш. У створанай ім «Старапольскай ілюстраванай энцыклапедыі» («Encyklopedia staropolska ilustrowana», т. 1—4, 1900—03, 4 выд. Варшава, 1978) змясціў тлумачэнне стараж. з'яў «сябры», «сяброўства», «старазапусная нядзеля», што бытавалі на Беларусі, апісанне архітэктурных пабудоў Слонімскага пав. і інш.,



звесткі пра «Смаргонскую мядзведжую акадэмію», бел. стравы (талакно, каравай, верашчака), гербы, бібліятэкі, друкарні, вайсковую атрыбутыку, хатнія прылады працы, стараж. ўпрыгожанні.

*Тв.*: Starożytne osady z szasów użytku krzemienia na ziemiach dawnej Polski // Kłosy. 1875. T. 20; Notatki archeologiczne Michała Federowskiego z okolic Słonima: Kurchany pod Wiszowem. Warszawa, 1882; Geografia historyczna ziem dawnej Polski. Kraków, 1900; Dolinami rzek: Opisy podróży wzdłuż Niemna, Wisły, Bugu i Biebózy. Warszawa, 1903; Album etnograficzne. Warszawa, 1904; Białowieża. Warszawa, 1907; Budownictwo drzewne i wyroby z drzewa w dawnej Polsce. T. 1—2. Warszawa, 1907—09; Бел. пер.: Далінамі рэк: Апісаньне падарожжа ўздоўж Нёмана, Віслы, Бугу, Бабра // Спадчына. 1996. № 5.

*Літ.*: Federowski M. Zygmunt Gloger: (Garść wspomnień osobistych) // Ziemia. Warszawa, 1912; Syska H. Zygmunt Gloger. Warszawa, 1963; Васілевіч У.А. Збіральнікі. Мн., 1991.

***Генадзь Каханоўскі.***

**Глуск** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Глускага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Рэчыцкім пав. Менскага ваяв., на р. Пціч. Вядомы з 2-й пал. 15 ст. У сярэдзіне 15 ст. паўн. часткай Глускай вол. і Старым Г. валодаў



План **Глуска** і Глускага замка. 19 ст.

князь С.Ю.Гальшанскі, а цэнтрам уладанняў князя І.Ю.Гальшанскага стала паселішча Глуск-Дубровіцкі, на якім пазней узнік сучасны Г. Яго сын Юрый Гальшанскі-Дубровіцкі, заснаваў на гэтым месцы драўляны *Глускі замак*, а ў 1525 атрымаў ад вял. князя Жыгімонта Старога прывілей праводзіць у Г. кірмашы. У 1560 Г. дастаўся Настассі Юр'еўне (удава князя К.І.Заслаўскага) і яе сястры Соф'і (жонка князя А.І.Палубінскага) Гальшанскім, якія падзялілі замак, мястэчка і навакольныя вёскі папалам. Пазней Г. быў падараваны Хадкевічам, з 1568 Я.Хадкевіч меў тытул «графа на Шклове, Быхаве, Мышы і Глуску». Паводле адм.-тэр. падзелу 1565—66 Г. увайшоў у Навагародскі пав., у 1571 у ім 124 дамы і 12 крам. З канца 16 ст. саўладальнікамі Г. сталі Палубінскія і Чартарыйскія. У канцы 16—пач. 17 ст. ў Г. пабудаваны новы замак з бастыённай сістэмай умацаванняў. У 1626 князь М.Ю.Чартарыйскі прадаў сваю частку Г. і воласці князю К.А.Палубінскаму, які стаў адзіным уладальнікам мястэчка. У 1628 ён пабудаваў у Г. новую правасл. царкву і аддаў ёй частку в. Рудзіновічы. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у сак. 1655 Г. разбураны казакамі. Пасля гэтага Г. быў вызвалены ад падаткаў на 10 гадоў, а ў 1673 — яшчэ на 12 гадоў; мястэчка і замак аднаўлены. У 1667 Палубінскі заснаваў тут кляштар бернардзінцаў. Пасля яго смерці Г. перайшоў да яго дачкі Ганны (жонка Дамініка Мікалая Радзівіла), з гэтага часу і да канца 18 ст. Г. належаў Радзівілам. Глуская вол. пры Радзівілах звалася графствам. У 1775 Г. пацярпеў ад моцнага пажару, пасля чаго зноў вызвалены ад падаткаў на 10 гадоў. У 1791 уключаны ў Случарэцкі пав. Навагародскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Глуская воласць**. Існавала ў 14—18 ст. У канцы 14 ст. належала кн. І.А.Гальшанскаму. У 15—16 ст. уладанне *Гальшанскіх*. На Пн да яе належалі вёскі Мязовічы, Дзераўцы, Ясень (цяпер у Асіповіцкім р-не), на Пд мяжа праходзіла прыкладна па р. Арэса. Пасля смерці кн. Ю.С.Гальшанскага (1457) воласць падзелена паміж яго сынамі Сямёнам, Іванам, Аляксандрам і дачкой Ганнай (жонка М.Гаштольда), прычым паўн. частка воласці са Старым Глускам (пазнейшы Глуск-Пагарэлы, сучасная в. Гарадок) трапіла, відаць, да Сямёна, а пасля шлюбу ягонай дачкі Таццяны — да яе мужа кн. К.І.Астрожскага. Цэнтрам уладання Івана стала заснаванае ім паселішча Глуск (пазней Глуск-Дубровіцкі, сучасны г.п. *Глуск*). Яго сын Юрый, імкнучыся зрабіць свае ўладанні ў Г.в. кампактным абшарам, ажыццявіў некалькі замен з дзядзькам Аляксандрам, з сынам М.Гаштольда Альбрэхтам і кн. К.І.Астрожскім. У 1522 ён узяў у М.Гаштольда сёлы Восава і Ясень, а ўзамен аддаў Дзераўну і Дарогі (цяпер Старыя Дарогі). Пасля яго смерці ў 1536 частка Г.в. перайшла да яго сыноў — Януша, Уладзіміра і Сямёна, а потым да яго 6 дачок. У 1560 Глуск і навакольныя вёскі дасталіся Настассі (удава кн. К.І.Заслаўскага) і Соф'і (жонка кн. А.І.Палубінскага). Паводле адм.-тэр. падзелу ВКЛ у 1565—66 іх уладанні апынуліся часткова ў Навагародскім ваяв., часткова — у Рэчыцкім пав. Менскага ваяв. З канца 16 ст. саўладальнікамі Г.в. сталі Палубінскія і Чартарыйскія. Паводле інвентара 1571, доля Чартарыйскіх складалася з сёл Балашэвічы, Восава, Дварэц, Замошша, Карытна, Мінькавічы, Пагост, Рудаковічы, Сіманавічы, Сяльцы і Ясень, мяст. Глуск і замка з 3 вежамі і 34 гароднямі. У 1626 кн. М.Ю.Чартарыйскі прадаў сваю долю Г.в. князю К.А.Палубінскаму, які стаў адзіным уладальнікам часткі воласці. Каля 1640 яго ўдава незаконна далучыла да Г.в. некалькі сёл сумежнага Бабруйскага староства, за што староста падаў на яе ў суд. Пасля смерці А.Палубінскага (1679) і 2 яго сыноў частка Г.в. перайшла да яго дачкі Ганны, жонкі Д.М.Радзівіла. Нашчадкі іх сына Мікалая Фаўстына ўтварылі асобную глускую галіну роду Радзівілаў.

2-я частка Г.в. належала нашчадкам К.І.Астрожскага, М.Гаштольда і А.Ю.Гальшанскага. Пасля згасання роду Гаштольдаў (1542) і смерці віленскага біскупа Паўла (сын А.Ю.Гальшанскага) іх часткі адышлі да вял. князя ВКЛ. «Устава на валокі» 1557 называе Г.в. сярод дзярж. валасцей. Неўзабаве яна была падаравана магнатам Хадкевічам. Ян Хадкевіч прадаў сваю частку кн. Ю.Ю.Алелькавічу. Доля К.І.Астрожскага перайшла да яго сына Ільі, пасля яго смерці — да яго ўдавы Беаты Касцялецкай, якая пазней выйшла замуж за А.Ласкага. Частка Г.в., што была запісана на Кіева-Пячэрскую лаўру Гальшанскімі і Астрожскімі, была выкуплена ляхавіцкім дзяржаўцам А.Забалоцкім, пазней перайшла да кн. А.Палубінскага. К.Радзівіл Пярун, які пасля шлюбу з дачкой К.К.Астрожскага Альжбетай стаў уладальнікам часткі Г.в., выкупіў у Палубінскага ў 1593 Глуск-



Пагарэлы з сёламі Заелле, Заполле, Нявраднікі, Яўсеевічы, Сіманавічы, Картына, Восава, Ясень, Вельча, Жалвінец, Калоцічы, Мыслоцін, Паўстовічы, Барысаўцы, Парэчча і Зарэкуці (больш за 300 сялянскіх дымоў). Пасля шлюбу Соф'і Юр'еўны Алелькавіч з сынам К.Радзівіла Янам гэтая частка Г.в. была далучана да Слуцкай латыфундыі Радзівілаў. У 18 ст. Г.в. звалася графствам, у 1708 яна ўключала сёлы Балашэвічы, Будзенічы, Вольніца, Дуброўна, Даколь, Калюгі, Кольчыцы, Макавішча, Мінькавічы, Межылессе, Мыслоцін, Пагост, Палажэвічы, Рудаковічы, Сяльцо, Хвастовічы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) воласць у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 1. С. 202—248, 267; Т. 3. С. 35—38; Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах. Мн., 1936. Т. 1. С. 607—622; Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мн., 1940. Т. 2. С. 210—223; Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 116—120.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Глускі замак.** Існаваў у 16—18 ст. на ўсх. ускраіне мяст. Глуск Дубровіцкі (цяпер г. Глуск) на правым беразе р. Пціч. Паводле даных археалогіі і пісьмовых крыніц заснаваны каля 1522. У грамаце вял. князя Жыгімонта Старога князю Юрыю Іванавічу Дубровіцкаму ад 20.12.1522 упамінаецца, што той «збудовал собе у выймени своем замок у Глуску». Пасля смерці Ю.Дубровіцкага замак адышоў сыну Сямёну. Пазней яго саўладальнікамі разам дачкою Ю.Дубровіцкага былі Заслаўскія, Чартарыйскія, Палубінскія. У 1626 увесь замак перайшоў К.Палубінскаму, які перадаў яго ў спадчыну сыну Аляксандру Гіляры. Пасля смерці апошняга ў 1679 Глуск атрымалі яго дачка Ганна з мужам Дамінікам Радзівілам. Потым замкам валодалі князі Радзівілы. Да сярэдзіны 17 ст. Г.з. быў драўляна-земляны. Пляцоўка, на якой размяшчаліся драўляныя пабудовы (2 жылыя і 7 гаспадарчых), была ўмацавана спачатку адной, а з сярэдзіны 16 ст. 2 вежамі (галоўнай з брамай і «форткай» з боку ракі) і 34 гароднямі. У арсенале замка былі гарматы, гакаўніцы, ручніцы, рагаціны, порах і інш. У замку працавалі рамеснікі, пра што сведчыць вял. колькасць бракаваных вырабаў і вытворчых адходаў. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у сак. 1655 замак спалены атрадам казакоў І.Залатарэнкі. Вынікам казацкай разні мясц. насельніцтва сталі магілкі, выяўленыя раскопкамі ў паўд.-зах. частцы замка. У 1667 А.Г.Палубінскі пачаў аднаўленне замка з узвядзення касцёла (частка дзядзінца была аддадзена бернардзінцам). Неўзабаве прыступілі да рэканструкцыі абарончых умацаванняў з улікам дасягненняў еўрап. фартыфікацыі. У 1670-я г. вакол пляцоўкі з'явіліся валы з 5 бастыёнамі і 2 мураванымі вежамі: брамай з узводам і падземным ходам і малой вежай з боку ракі. У выніку замак набыў форму правільнага пяцівугольніка, абкружанага ровам з вадой. Падземны ход пачынаўся, відаць, ад палаца і касцёла, ішоў да брамы і выходзіў да рова за зах. курцінай. На дзядзінцы плошчай 45 тыс. м$^2$ месціліся кляштар, палац, жылы дом, гасп. пабудовы, 2 сажалкі. На патрэбы замка працавалі рамеснікі розных спецыяльнасцей: пушкары, шабельнік, кавалі, руднік, муляры, слесар, цясляр, рымар, злотнікі, мастак і нават гадзіннікавы майстар. Служба ў замку была добра арганізавана, а яго зброя і ўмацаванні захоўваліся ва ўзорным парадку. Пасля вайны 1654—67 мястэчка і замак неаднойчы вызваляліся ад падаткаў як важная цытадэль у сістэме абароны ад магчымых казацкіх нападаў. У выніку археал. раскопак сабрана вял. калекцыя знаходак, якая характарызуе асн. этапы гісторыі помніка і дазваляе зрабіць параўнаўчы аналіз матэрыяльнай культуры яго ў розныя перыяды існавання. З 1996 Г.з. сістэматычна даследуецца І.У.Ганецкай.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991; Якімовіч Ю.А. Зодчество Белоруссии XVI—середины XVII в. Мн., 1991; Ганецкая І.У. Кафля Глускага замка // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2002. № 5; Яе ж. Вежа-брама Глускага замка па дадзеных археалогіі і пісьмовых крыніц // Badania archeologiczne w Polsce północno-wschodniej i na Zachodniej Białorusi w latach 2000—2001. Białystok, 2002; Яе ж. Характарыстыка крыніц па вывучэнні Глускага замка // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002.

***Ірына Ганецкая.***

**Глыбокае** (цяпер горад, цэнтр Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Віленскім і Полацкім ваяводствах; у межах Г. азёры Ка-



Да арт. **Глыбокае**. Троіцкі касцёл.



чальнае і Вялікае, з якога выцякае р. Бярозаўка (Беразвеч). Упершыню ўпамінаецца пад 1514 як двор, цэнтр маёнтка Зяновічаў. Рака Бярозаўка падзяляла Г. на 2 часткі: паўд.-заходняя належала Зяновічам і ўваходзіла ў склад Ашмянскага пав. Віленскага ваяв., паўн.-ўсходняя — Корсакам і ўваходзіла ў склад Полацкага ваяв. Цэнтрам паўд.-зах. часткі была гандлёвая плошча з крамамі, свірнамі, уніяцкай царквой з плябаніяй, шпіталем. Тут быў пабудаваны *Глыбоцкі замак*. Паўн.-ўсх. частка Г. таксама мела ў цэнтры гандлёвую плошчу, ад якой пачыналіся шляхі на Дзісну, Полацк і мяст. Беразвечча. З 16 ст. Г. — мястэчка. У 1563—79 у *Інфляцкую вайну 1558—82* Г. і наваколлю прычынены значныя страты рас. войскамі. У канцы 16 ст. ў Г. заснаваны кальвінскі збор (у пач. 17 ст. на яго месцы пабудаваны касцёл св. Міхала, які праіснаваў да 1650), б-ка, школа. З 1628 пачаў дзейнічаць Троіцкі касцёл. У 1639 ваявода мсціслаўскі і староста дзісенскі І.Л.Корсак заснаваў на сваёй частцы Г. кляштар кармелітаў, пры якім дзейнічала вучылішча. У сярэдзіне 17 ст. пабудавана царква Тройцы (пасля пажару 1838 адноўлена, зноў згарэла ў 1880). У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Г. займалі рас. войскі. Яны пабудавалі тут невял. драўляны замак («острог»), у якім размяшчаўся гарнізон. У студз. 1659 мястэчка вызвалена. 6.11.1661 каля Г. войска ВКЛ на чале з С.Чарнецкім разбіла рас. войска пад камандаваннем І.А.Хаванскага (больш за 18 тыс. чал.), захапіла 6 гармат, вял. запас пораху, больш за 6 тыс. павозак з правіянтам. З рас. боку загінула больш за 6 тыс. чал., астатнія ўцяклі ў Полацк. 24.7.1667 апалчэнне глыбачан дало адпор марадзёрам венгерскай харугвы польнага гетмана ВКЛ В.Валовіча, якія адступілі ад Г. Мястэчка моцна пацярпела ад пажараў 1661 і 1700. У 1668 паўд.-зах. частка Г. перайшла да Радзівілаў, у 19 ст. — да Вітгенштэйнаў. Паводле інвентара 1712, сядзібны комплекс Радзівілаў у Г. уключаў галоўны 1-павярховы драўляны будынак, флігель, пякарню, 2-павярховы лямус з галерэямі, свірны, стайні, вазоўні, сажалку, ставок з вадзяным млынам, інш. гасп. пабудовы. У маёнтку налічвалася 263 двары. У 18 ст. ў мястэчку 2 гандл. плошчы з крамамі; пераважала драўляная 1-павярховая жыллёвая забудова (у 1775 налічвалася 310 дамоў, у Корсакавай частцы — 110 двароў). У 1742 у Г. пабудавана сінагога, у канцы 18 ст. — Ільінская капліца. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Глыбоцкага р-на. Мн., 1995.

*Язэп Бунто.*

**Глыбоцкі замак**. Існаваў у 16—18 ст. у мяст. *Глыбокае*. Пабудаваны на месцы «двара» Зяновічаў (паўд.-зах. частка Глыбокага). Замак пазначаны на карце М.Струбіча «Тэатр вайны за Інфлянты» (1589). Апісанні замка таго перыяду невядомыя, але, відаць, ён не адрозніваўся ад традыцыйных тагачасных збудаванняў з земляным валам, драўлянымі сценамі і вежамі. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* пад сценамі замка 30.6.1654 адбыўся бой паміж атрадам войска ВКЛ і рас. войскам на чале з думным дваранінам Ж.В.Кондыравым. Паводле гіст. крыніц, 2.8.1654 Г.з. быў спалены ўшчэнт, а кіраўнік абароны замка полацкі падкаморы Бяганскі трапіў у палон. У 1658 атрад войска палкоўніка ВКЛ У.Валовіча ўзяў штурмам Г.з. і спаліў яго, а захопленыя гарматы адвёз у Даўгінаў. Пазней замак быў адноўлены і праіснаваў да канца 18 ст. У 1700 у час *Паўночнай вайны 1700—21* Г.з. моцна пацярпеў ад вял. пажару. Паступова замчышча было забудавана, вул. Замкавая яшчэ згадвалася ў дакументах канца 18—19 ст.

*Міхась Ткачоў.*

**Глыбоцкі кляштар кармелітаў**. Быў размешчаны ў старым цэнтры мяст. *Глыбокае*, на паўн. беразе воз. Вялікае. Заснаваны ў 1639 ваяводам мсціслаўскім І.Л.Корсакам, які запісаў кляштару сваю частку Глыбокага, 27 фальваркаў і вёсак. Кляштар спалены ў ходзе *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Мураваны касцёл Ушэсця Маці Божай пабудаваны ў 2-й пал. 17 ст. ў стылі сармацкага барока, перабудаваны ў 1735 паводле праекта архітэктара Ю.Фантана (зменены гал. фасад і інтэр'ер) як першы ўзор віленскага барока на Беларусі. У 1727 у кляштар пераведзены з Вільні кананічны навіцыят. Касцёл — 3-нефавая 4-вежавая базіліка з трансептам і прамавугольнай у плане алтарнай апсідай. Гал. фасад багата аздоблены ордэрнай пластыкай і завершаны 2 скразнымі 4-яруснымі чацверыковымі вежамі і фігурным франтонам паміж імі. Інтэр'ер аздоблены пілястрамі, антабламентамі з кованай агароджай над ім, лепкай у тэхніцы стука і інш.Зберагліся разныя з пазалотай дзверы 17 ст. З ПнЗ да касцёла прылягаў 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак кляштара з унутраным дваром (зберагліся ўсх. крыло). На восі касцёла размешчана 3-пралётная брама ў стылі позняга барока. Пры кляштары ў 1830 былі бясплатны канвікт для вучняў (пансіён), музычная капэла, бібліятэка (2621 том, 1655 гравюр, збор планаў і карт), шпіталь, аптэка, гаспадарчыя пабудовы. У 1842 канфіскаваныя ў казну ўладанні кляштара складалі больш за 760 валок зямлі, 11 фальваркаў і 67 вёсак, каля 800 дымоў, гадавы прыбытак 12 785 руб. серабром. У 1862 кляштар скасаваны (манахі выехалі ў Камянец-Падольскі), яго будынкі аддадзены палаце дзярж. маёмасці. Касцёл у 1872—78 перароблены ў царкву Раства Багародзіцы, дзейнічае.

*Тамара Габрусь, Аляксандр Ярашэвіч.*



Глыбоцкі кляштар кармелітаў.



**Глябовіч** Антоній Баляслаў (14.7.1801, г. Гродна—29.5.1847), гісторык, педагог. Скончыў Віленскі ун-т (1820), са ступенню кандыдата філасофіі. Пад кіраўніцтвам І.*Анацэвіча* напісаў «Кароткі нарыс жыцця Вітаўта» («Krótki rys życia Witolda W. Ks. Lit.», Вільня, 1821) — першую навук. біяграфію вял. князя, прысвечаную гал. ч. яго замежнай палітыцы і войнам. Сістэматызаваў рукапісныя матэрыялы М.*Догеля*, сабраныя для нявыдадзеных тамоў «Дыпламатычнага кодэкса Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага», якія збераrаліся ў б-цы Віленскага ун-та. Знойдзеныя там лісты персідскіх шахаў да Жыгімонта III, а таксама артыкул «Гісторыя булгараў» апублікаваў у газ. «Dziennik Wileński» («Віленскі дзённік»). Пераклаў з рус. на польскую мову кнігу І.М.Лабойкі «Погляд на старажытную скандынаўскую літаратуру» (Вільня, 1822) і Г.Успенскага «Кароткае апісанне расійскіх старажытнасцей...» (т. 1—2, Вільня, 1822). Уваходзіў у т-ва філарэтаў. З 1823 у Пецярбургу, працаваў у мін-ве нар. адукацыі. Стаў сакратаром канцлера М.П.Румянцава, што дало Г. магчымасць карыстацца яго багатымі зборамі гіст. матэрыялаў. З 1830 у Варшаве, займаўся пед. дзейнасцю.

*Літ.*: Burbianka M. Antoni Hlebowicz — zapomniany biograf Witolda // Ateneum Wileńskie. 1930. Z. 3/4.

***Валерый Пазднякоў.***

**Глябовічы**, шляхецкі род герба «Ляліва». Некат. даследчыкі выводзяць род ад нашчадкаў Гедзіміна або Манівіда, які пры Нарымунце быў маршалкам літоўскім. Хутчэй за ўсё, Г. паходзяць ад баяр Смаленскай або Полацкай зямлі. Валодалі гарадамі Дуброўна і Заслаўе, мелі маёнткі ў Мазырскім, Ігуменскім, Аршанскім, Навагародскім паветах, на Смаленшчыне і Віцебшчыне, у Польшчы, палацы ў Вільні і Менску. Першы вядомы прадстаўнік роду Г. — смаленскі ваявода Глеб (15 ст.), які меў сыноў Станіслава, Пятра і Юрыя. Найб. вядомыя:

Станіслаў Глебавіч (?—1513), сын Глеба. Намеснік мерацкі ў 1492—95, маршалак гаспадарскі ў 1492—1511; намеснік віцебскі ў 1495—1501, браслаўскі з 1501, полацкі з 1502, ваявода полацкі з 1505, разам з братамі ўваходзіў у велікакняжацкую раду. Вызначыўся на дыпламатычнай службе — удзельнічаў у пасольствах да вял. князя маскоўскага ў 1492, 1499, 1503, 1504, 1511.



Да арт. **Глябовічы**. Герб Я.Я.Глябовіча на кафлі з археалагічных раскопак Заслаўя.

Пётр Глебавіч (?—пасля 1522), сын Глеба. Намеснік навагародскі ў 1502 і крэўскі ў 1511—22.

Юрый Глебавіч (?—пасля 1520), сын Глеба. Намеснік смаленскі ў 1492—99, стараста жамойцкі з 1494, намеснік аршанскі і аболецкі ў 1500—01, віцебскі ў 1503—08 і смаленскі ў 1508—14, стараста мерацкі з 1514 і ваўкавыскі з 1520. У 1506 у складзе пасольства да вял. князя маскоўскага. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* у 1513 абараняў Смаленск ад маскоўскага войска.

Мікалай Юр'евіч (?—1514), сын Юрыя Глебавіча. Стараста дарагічынскі і слонімскі; у *бітве на Вядрошы 1500* разам з К.Астрожскім трапіў у палон да рускіх, вярнуўся ў 1511, у вайну Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1512—22 у 1513 фактычна ўзначаліў абарону Смаленска.

Ян Юр'евіч (?—23.4.1549), сын Юрыя Глебавіча. Маршалак гаспадарскі ў 1516—42, дзяржаўца мсціслаўскі з 1527 і радунскі, ваявода віцебскі з 1528, полацкі з 1532 і віленскі з 1542, стараста бабруйскі з 1542, канцлер ВКЛ з 1546. Удзельнічаў у *вайне Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37*, у перагаворах і заключэнні перамір'яў 1537 і 1542. Спачатку быў прыхільнікам каралевы Боны і саюзу з Польшчай, пазней далучыўся да прыхільнікаў самастойнасці ВКЛ. Быў жанаты з Соф'яй Барташэвіч-Монтаўт, пазней з Соф'яй Пяткевіч, Ганнай Заслаўскай. Паводле попісу войска ВКЛ 1528, выстаўляў са сваіх маёнткаў 148 вершнікаў і яшчэ 88 вершнікаў з маёмасці 2-й жонкі.

Ян Янавіч (1544—ліп. 1590), сын Яна Юр'евіча. Дзяржаўца анікштынскі, кашталян менскі ў 1571—85, стараста анікштынскі з 1575 і радашковіцкі з 1576, падскарбі земскі і пісар ВКЛ у 1580—86, дзяржаўца упіцкі з 1584, кашталян троцкі з 1585, ваявода троцкі з 1586. У *Інфлянцкую вайну 1558—82* вызначыўся пры абароне Полацка ад войска Івана IV, узначаліўшы абарону Запалоцця. Трапіў у палон. У Маскве збіраў і перадаваў у ВКЛ інфармацыю. Пасля вяртання на радзіму ўдзельнічаў у штурме Полацка, аблозе Пскова. Дзеяч Рэфармацыі. Быў жанаты з Кацярынай Кратоўскай.

Мікалай Янавіч (?—18.11.1632), сын Яна Янавіча. Падстолі ВКЛ з 1605, ваявода смаленскі з 1611, кашталян віленскі з 1621. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* вызначыўся ў бітвах са шведамі пры Дынамюндэ, Тарнавай і Кірхгольмам. Удзельнічаў у паходзе на Маскву. Быў жанаты з Ганнай Марцэлай Карэцкай.

Юрый Мікалаевіч (Ежы Кароль; ?—18.4.1669), сын Мікалая Янавіча. Стараста анікштынскі і радашковіцкі з 1633, падстолі ВКЛ з 1639, стольнік ВКЛ з 1643; ваявода смаленскі з 1643, стараста жамойцкі з 1653, ваявода віленскі з 1668. Камісар на мірных перагаворах з Б.Хмяльніцкім у Белай Царкве ў 1651 і з Расіяй у 1659, 1660, 1662, 1664, 1666, адыгрываў у іх значную ролю. У 1655 выступіў супраць прызнання ўлады шведскага караля ў ВКЛ. Быў жанаты з Кацярынай Радзівіл. Апошні прадстаўнік мужчынскай лініі нашчадкаў Юрыя Глебавіча Глябовіча.

*Літ.*: Wolff J. Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego, 1386—1795. Kraków, 1885; Boniecki A. Herbarz polski. T. 7. Warszawa, 1904.

***Юрый Заяц.***

**Гнезнаўскі Міхайлаўскі касцёл**, помнік гатычнай архітэктуры з элементамі рэнесансу. Узведзены каля 1524 уладальнікамі маёнтка Гнезна Я. і Э. Шамятовічамі. У 2-й пал. 16—1-й пал. 17 ст. належаў пратэстантам, якія пераабсталя-



Гнезнаўскі Мікалаеўскі касцёл.

валі яго пад кальвінскі збор. У час *Паўночнай вайны 1700—21* пашкоджаны. У 1787 да яго паўд. фасада прыбудавалі сакрыстыю. У 1812 згарэў дах касцёла. Праз некаторы час храм адрамантаваны, узведзена мураваная агароджа. У 1839 пацярпеў ад пажару. Адрамантаваны на сродкі мясц. памешчыка Г.Тарасевіча. Тады надбудавалі вежу-званіцу, разбурылі сакрыстыю. Касцёл накрылі пляскатай дахоўкай, зрабілі цагляную падлогу. У 1890-х г. у касцёле яшчэ раз правялі рамонт. Паставілі мураваны гал. алтар, зноў прыбудавалі сакрыстыю, паклалі тэракотавую падлогу. У 1924 створаны камітэт па рэстаўрацыі касцёла. У 1931—32 аднаўлены паводле праекта архітэктара Т. Плюцынскага, пабудаваны апошні ярус вежы. Касцёл Міхала Архангела — мураваны 1-нефавы, 1-вежавы храм з 3-граннай алтарнай сцяной. З Пд да бакавога ўваходу прымыкае сакрыстыя. У зах. частцы над уваходам размешчаны хоры на 2 мураваных слупах. Злева ад уваходу ў тоўшчы сцяны знаходзяцца нешырокія ўсходы на хоры і ў вежу. Асн. аб'ём да нядаўняга часу перакрыты плоскай драўлянай столлю на бэльках. Сцены касцёла ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Умацаваны шматпрыступкавымі контрфорсамі, завершанымі ступеньчатымі кансолямі. З Пд і У прарэзаны вокнамі спічастай формы. Фасады асн. аб'ёму і вежы аздоблены нішамі розных памераў і формы. Першы ярус вежы прарэзаны з 3 бакоў дзвярнымі праёмамі паўцыркульнай формы, якія акцэнтаваны парталамі з прафіляванай цэглы. Першыя 2 ярусы вежы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, а астатнія 4 драўлянымі насцыламі.

*Літ.*: Кушнярэвіч А. М. Міхайлаўскі касцёл ў Гнезне // Мастацтва Беларусі. 1987. № 4; Пярвішын У., Кушнярэвіч А., Баркун Л. Гнезнаўскі касцёл // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1989. №2.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Гнезненская мітраполія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Створана ў 1000 рымскім папам Сільвестрам II у Польшчы па просьбе польскага кн. Баляслава Храбрага. Цэнтр — г. Гнезна. Гнезненскі мітрапаліт адначасова ўзначальваў Гнезненскую епархію і быў *прымасам* Польшчы. Першапачаткова ахоплівала Гнезненскую, Калобжагскую, Кракаўскую і Вроцлаўскую епархіі, пасля таксама Пазнанскую і Плоцкую (абедзве з 1076), Влацлаўскую, Любуцкую, Шчэцінскую і Волінскую (усе прыблізна з 1123—24), Хэлмінскую (з 1243). Пазней склад мітраполіі мяняўся. З 1409 да Г.м. належала Віленская епархія, што пацвердзіў у 1435 Базельскі сабор, з 1427 — Жамойцкая, з 1621 — Інфлянцкая, з 1636 — Смаленская епархіі. Луцкая епархія, якая з пач. 14 ст. належала да Львоўскай мітраполіі, на мяжы 16—17 ст. перайшла ў падпарадкаванне гнезненскіх мітрапалітаў. Першапачаткова належалі да Г.м. епархіі Львова (1350), Перамышля (1357) і Холма (1359), з 1375 яны ў складзе Г.м. (Львоўская з 1390).

***Валерый Пазднякоў.***

**Гозій** (Го з, Hozjusz, Hosius, Hos) Ульрык (Удальрык; каля 1455, г. Пфорцгайм, Бадэн—май 1535), інжынер, прадпрымальнік. З заможнага мяшчанскага роду. Відаць, у маладосці шмат падарожнічаў. З 1503 кракаўскі мешчанін. У 1504 пераехаў у ВКЛ, дзе спачатку мытнік ковенскі, а з 1504 і да канца жыцця непасрэдны кіраўнік *Віленскага манетнага двара*. Арганізатар шырокіх будаўнічых работ. З 1513 да смерці кіраваў перабудовай Віленскага Ніжняга замка, з 1515 будаваў у Вільні вял. велікакняжацкія млыны, з якіх яму ішла трэць прыбыткаў. Заклаў першы водаправод у Вільні (знаходзіўся ва ўласнасці дамініканцаў). З 1532 будаваў першы на Віліі мост (работы скончыў у 1536 яго сын Ян). За атрыманне мыта з моста абавязаны вял. князем пабудаваць шпіталь пры кляштары дамініканцаў. Як узнагароду атрымаў лясны маёнтак Бязданы, тытул віленскага гараднічага (1524) і войскага (1528). З яго сыноў Ян у сярэдзіне 16 ст. быў гараднічым віленскім, пасля старастам вармінскага біскупа; Станіслаў — біскупам вармінскім, кардыналам; Ульрык — мытнікам ковенскім. У 1561 сыны набілітаваны.

*Літ.*: Gumowski M. Ulryk Hozjusz, ojciec kardynała, horodniczy wileński // Przegląd powszechny. 1926. T. 171.

***Валерый Пазднякоў.***

**Голанд** (Holland) Ян Давід (17.3.1746, г. Санкт-Андрэасберг, Германія—14.12.1827), кампазітар, выкладчык, грамадскі дзеяч. У канцы 1760-х г. працаваў у Гамбургу. У 1776 заняў пасаду дырэктара музыкі гамбургскага кафедральнага сабора. Сімфоніі, кантаты і араторыі, вакальныя і інструментальныя п'есы Г. выконваліся ў канцэртах, друкаваліся ў розных зборніках. У пач. 1780-х г. пераехаў у Варшаву, потым быў запрошаны К.С.Радзівілам у Нясвіж, дзе стаў прыдворным кампазітарам і капельмайстрам *Нясвіжскай капэлы Радзівілаў*. Тут напісаў шэраг паланэзаў, кантат і опер. Найб. значэнне для муз. культуры ВКЛ і асабліва Беларусі мела опера «Агатка, або Прыезд пана» на лібрэта М.Радзівіла. Прэм'ера адбылася 17.9.1784 у Нясвіжы і была прымеркавана да візіту ў горад караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Опера заснавана на тыповым для свайго часу сюжэце, ар-



ганічна ўпісвалася ў агульнаеўрап. культурную плынь, разам з тым мела ўплыў лакальнага славянскага меласу і каларыту. Сярод інш. твораў опера-вадэвіль «Чужое багацце нікому не на карысць» (1780), балет «Арфей і Эўрыдыка» (паст. 1784, Нясвіж), кантата, прысвечаная К.С.Радзівілу (1786). Паводле некаторых звестак, у 1790 Г. працаваў у Гародні і Варшаве. У 1802 пераехаў у Вільню, на працягу 23 гадоў выкладаў тэорыю музыкі на ф-це літаратуры і вольных мастацтваў Віленскага ун-та, а таксама кіраваў універсітэцкім хорам і аркестрам. У гэты перыяд ствараў пераважна камерныя муз. творы, напісаў тэарэтыка-пед. працу «Акадэмічны трактат пра сапраўднае мастацтва музыкі». У 1816 абраны ганаровым членам Варшаўскага т-ва сяброў касцельнай і нацыянальнай музыкі.

*Літ.*: Дадзіёмава В.У. Ян Давід Голанд. Мн., 1997.

***Вольга Дадзіёмава.***

**Голубеў** Валянцін Фёдаравіч (н. 21.6.1955, г. Крывы Рог Днепрапятроўскай вобл., Украіна), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1987), дацэнт (1999). Скончыў БДУ (1981). З 1981 навук., старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі Нац. АН Беларусі. У 1990—95 дэпутат Вярх. Савета Рэспублікі Беларусь, сакратар Пастаяннай камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях. Даследуе праблемы аграрнай гісторыі Беларусі 16—18 ст., функцыянавання сял. абшчыны ў Беларусі ў 15—18 ст., пытанні сац.-эканам. і паліт. развіцця, знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь.

*Тв.*: Сялянскае землеўладанне і землекарыстанне на Беларусі XVI—XVIII стст. Мн., 1992; Ці ведаеце Вы гісторыю сваёй краіны? Мн., 1994 (з П.А.Лойкам, У.П.Круком); Perspektywy polityki zagranicznej Białorusi // Biuletyn Białoruski. 1995. № 5; «Белорусский менталитет» как фактор формирования гражданского общества // Belarus Monitor. Спец. выпуск «Демократические процессы в Беларуси: основные тенденции и противоречия». Мн, 1997; Belarus in the context of times and politics. Stockholm, 1997 (з А.А.Саннікавым); Архивное наследие Великого княжества Литовского в государственных архивах Беларуси, Литвы, Польши и России: к проблеме выявления, изучения и введения в научное обращение // The sciences archives in the european integration. Warszawa, 2000; Сялянская абшчына ў Беларусі XVI—XVIII ст. як грамадска-тэрытарыяльная супольнасць // Гістарычная навука ў Белдзяржуніверсітэце на рубяжы стагоддзяў. Мн., 2000; Конфессиональный фактор в проблеме формирования национального самосознания белорусов // Аналитический бюллетень Белорусских фабрик мысли. 2000. № 3; Профсоюзы Беларуси: трансформация и перспективы. Мн., 2003 (з А.Ю.Хадыкам); Аграрная рэформа Антонія Тызенгаўза на Беларусі ў другой палове XVIII ст. // З гісторыі эканамічных рэформаў на Беларусі. Мн., 2003. Вып. 3 (з І.Ф.Кітуркай); Гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да пачатку XXI ст. Мн., 2003 (у сааўт.); Нарысы гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Мн., 2004 (з І.Ф.Кітуркай).

**Голубеў** (Голубев) Сцяпан Цімафеевіч (25.9.1848, с. Ардатаў Пензенскай губ.—1920), расійскі гісторык царквы. Чл.-кар. Пецярбургскай АН (1908). Д-р царкоўнай гісторыі, праф. ардынарны (1899). Скончыў Пензенскую духоўную семінарыю (1870) і Кіеўскую духоўную акадэмію (1874), дзе пасля выкладаў, адначасова з 1885 ва Ун-це св. Уладзіміра ў Кіеве. З 1893 чл. Кіеўскай археаграфічнай камісіі. Даследаваў гісторыю царквы ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, пераважна 16—17 ст., дзейнасць кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы. Друкаваў артыкулы ў час. «Труды Киевской духовной академии», «Православное обозрение», «Киевская старина», «Чтения в Историческом обществе Нестора-летописца», «Киевские епархиальные ведомости». Апублікаваў стараж. памінальнік Кіева-Пячэрскай лаўры, твор мітрапаліта Сільвестра Косава «Экзэгезіс». Падрыхтаваў 3 тамы «Архіва Паўднёва-Заходняй Расіі», дзе апублікаваны помнікі палемічнай л-ры канца 16—1-й пал. 17 ст. (ч. 1, т. 7—9, 1887, 1914, 1893).

*Тв.*: Описание и истолкование дворянских гербов южнорусских фамилий в произведениях духовных писателей XVII в. // Тр. Киевской духовной академии. 1872. Т. 3; Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники: Опыт исторического исследования. Т. 1—2. Киев, 1883—98; История Киевской духовной академии. Вып. 1. Киев, 1886; Древний помянник Киево-Печерской лавры (конца XV и начала XVI столетия) // Чтения в Ист. о-ве Нестора-летописца. Киев, 1892. Кн. 6. Материалы для истории западно-русской церкви (XVIII в.) // Там жа. 1895—96. Кн. 9—10; Западно-русская церковь при митрополите Петре Могиле (1633—1646) // Киевская старина. 1898. Т. 60—61.

*Літ.*: Журба О.І. Київська археографічна комісія, 1843—1921. Київ, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гомель** (цяпер горад, цэнтр вобласці і раёна Рэспублікі Беларусь), горад у Рэчыцкім пав., на р. Сож. Упершыню ўпамінаецца пад 1142 як горад Чарнігаўскага княства. З сярэдзіны 14 ст. ў складзе ВКЛ. У канцы 14 ст. Г. валодаў падольскі князь Фёдар Карыятавіч. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) упамінаецца сярод кіеўскіх гарадоў. Цэнтр Гомельскай воласці. У 1446 вял. князь Казімір аддаў Г. разам са Старадубам, Бранскам і Мсціславам уцекачу з Маскоўскай дзяржавы князю Васілю Яраславічу Серпухаўска-Бараўскаму, а пасля яго вяртання ў Расію (1447?) — вял. князю Свідрыгайлу, які валодаў Г. і *Гомельскай воласцю* да смерці (1452). Пасля Г. быў падараваны ў вотчыну князю І.А.Мажайскаму, які ў 1454 таксама ўцёк з Маскоўскай дзяржавы (памёр да 1483). Яго сын С.І.Мажайскі ў час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* перайшоў у 1500 разам з Г. на бок маскоўскага вял. князя Івана III. Пасля смерці С.І.Мажайскага Г. валодаў яго сын В.С.Мажайскі (памёр у 1519). У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* Г. двойчы ў 1515 і 1516 ваявалі войскі ВКЛ. У *вайну Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* Г. пасля некалькіх дзён аблогі 17.7.1535 узяты войскам ВКЛ на чале з вял. гетманам Ю.Радзівілам. З 1535 Г. — цэнтр дзярж. Гомельскага староства, з 1565 у Рэчыцкім пав. 21.3.1560 горад атрымаў пячатку і герб — выяву крыжа. З сярэдзіны 16 ст. разам з *Гомельскім замкам* упамінаюцца інш. гарадскія ўмацаванні. Г. быў абкружаны земляным валам, наверсе яго стаялі драўляныя сцены-гародні і вежы. Існавалі брамы: Чачэрская, Магілёўская, Рэчыцкая і Водная (выходзіла на прыстань). З канца



Герб **Гомеля**.



15 ст. ўпамінаецца замкавая Мікольская царква, з сярэдзіны 16 ст. — гарадская Прачысценская (Раства Багародзіцы), Троіцкая і Спаская цэрквы. У *Інфлянцкую вайну 1558—82* Г. у 1581 штурмавалі рас. войскі і горад быў спалены (жыхары схаваліся ў замку). Тое ж адбылося ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34*, калі Г. у 1633 ваявалі казацкія сотні Б.Булгакава і І.Ярмоліна. У пач. 17 ст. рабіліся спробы ўвесці ў Г. царкоўную унію. У 1621 уніяцкі архіепіскап І.Кунцэвіч зачыніў Мікольскую царкву, аднак хутка яна зноў была адчынена як праваслаўная. У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* Г. заняты 4.7.1648 укр. казакамі палкоўніка Я.Галавацкага і мясц. сялянамі, якія разрабавалі маёмасць заможных гараджан. Пасля адклікання Галавацкага вясной 1649 у Г. уступіў чарнігаўскі палкоўнік М.Нябаба. У 1651 урадавая ўлада над Г. адноўлена. У чэрв. 1651 Г. беспаспяхова штурмавалі ўкр. казакі (гл. *Гомеля абарона 1651*). У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* казацкае войска (каля 20 тыс.) пад камандаваннем наказнога гетмана І.Залатарэнкі ў жн. 1654 пасля 1,5-месячнай аблогі захапіла Г. У 1660 цар Аляксей Міхайлавіч аддаў Г. брату загінуўшага гетмана В.Залатарэнку, але той не здолеў умацавацца там, бо горад захоплены казацкім войскам А.Мурашкі, што дзейнічаў на баку Рэчы Паспалітай, але праводзіў самастойную палітыку. Паводле *Андрусаўскага перамір'я 1667* Г. застаўся ў складзе ВКЛ. У 1672 Мурашка перайшоў на службу да цара, і ўлада ВКЛ над Г. адноўлена. У 1681 у горадзе 165 дымоў. З канца 16— пач. 18 ст. ў Г. сяліліся стараверы — уцекачы з Расіі. Побач з замкам яны заснавалі Спасаву слабаду з Праабражэнскай царквой (фармальна слабада ў склад горада не ўваходзіла). У час *Паўночнай вайны 1700—21* у Г. размяшчаліся рас. войскі пад камандаваннем А.Д.Меншыкава (1706), пасля перамогі ў бітве каля в. Лясная (1708) яны праходзілі праз горад. З пач. 18 ст. ў Г. вядомы касцёл. У 1701 згарэла Мікольская царква, пасля адбудовы яна з 1717 уніяцкая, пры ёй дзейнічаў базыльянскі манастыр. У 1737 згарэў амаль увесь горад (акрамя замка) з Троіцкай, Спаскай і Прачысценскай правасл. цэрквамі. Дазвол на іх адбудову дадзены ў 1756. Стараверы на Спасавай слабадзе ў 1737 пабудавалі пры манастыры царкву Ільі-прарока. У 1764 слабада спалена рас. войскамі, а яе жыхары вывезены ў Расію. У 1765 у Г. 206 дымоў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Виноградов Л. Гомель: Его прошлое и настоящее, 1142—1900 г. М., 1900; Жудро Ф.А., Сербов И.А., Довгялло Д.И. Город Гомель: Географическо-статистический очерк // Зап. Северо-Западного отдела Императорского Русского Географического общества. Вильна, 1911. Кн. 2; Макушников О.А. Гомель с древнейших времен до конца XVIII века: Историко-краеведческий очерк. Гомель, 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гомельская воласць**, Гомельскае староства, дзяржаўнае ўладанне ў ВКЛ. Вылучылася са складу Старадубскага княства, якім да 1432 валодаў Жыгімонт Кейстутавіч. Пасля *феадальнай вайны 1432—39* у Г.в., відаць, быў накіраваны велікакняжацкі намеснік. Паміж 1440 і 1443 са складу Г.в. вылучаны маёнткі Хальч і Шарсцін, падараваныя адпаведна Герману Радзівонавічу (родапачынальніку Халецкіх) і Міхаілу Мантоўту (пасля яго смерці Шарсцін вярнуўся ў склад Г.в.). Тады ж нейкае неназванае сяло было падаравана Бумонту, у якога яго спрабаваў адняць Еска Пратасавіч, уладальнік іншага сяла. З 1446 Г.в. належала перабежчыку з Вял. княства Маскоўскага князю Васілю Яраславічу Серпухаўска-Бароўскаму, у 1450—52 — Свідрыгайлу. Апошні незадоўга да смерці вылучыў са складу Г.в. сёлы Данілавічы, Дуравічы і Валосавічы і падараваў іх Андрэю Саковічу. Пасля 1454 Г.в. перададзена ва ўдзел перабежчыку з Вял. княства Маскоўскага князю І.А.Мажайскаму, каля 1483 адышла да яго сыноў Андрэя і Сямёна. У гэты час Б.А.Саковіч дамогся звароту яму Данілавічаў, Дуравічаў і Валосавічаў, пасля смерці А.Саковіча (каля 1464) далучаных да Г.в. У выніку пераходу князя С.І.Мажайскага на бок Вял. княства Маскоўскага ў 1500 Г.в. адышла да Масквы, тады ж да яе далучыліся задняпроўскія паселішчы сумежных Горвальскай, Рэчыцкай і Стрэшынскай валасцей, таксама захопленыя Маскоўскай дзяржавай. Вернута ў склад ВКЛ у 1535 у час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37*, уваходзіла ў лік дзярж. прыдняпроўскіх (рускіх) валасцей. З сярэдзіны 16 ст. звычайна называлася старастввам. На пасадзе гомельскіх намеснікаў (дзяржаўцаў, старастаў) вядомы князі А.А.Сангушка (1535), В.Ю.Друцкі-Талачынскі (1536—37), а таксама Я.Дарашкевіч, Я.Хршчановіч (1546—49), А.Гарнастай (1547—52). Пасля 1535 Халецкім быў вернуты Хальч і сёлы Засоўе, Кальскевічы, Чабатовічы, Чорныя (да 1500 адносіліся да Горвальскай вол.). Ва ўласнасць мясц. баярам да 1560 былі раздадзены сёлы Вага, Валазковічы, Кузьмічы, Рылавічы, Слабада. Сяло Плёса стала ўласнасцю Гомельскай Троіцкай царквы. Сёлы Ліпінічы, Прысна, Шарсцін у пачатку *Інфлянцкай вайны 1558—82* аддадзены ў леннае трыманне гомельскаму ротмістру К.Ленскаму, Дуравічы — паручніку гомельскай роты Я.Фашчу. На момант рэвізіі Г.в. 1560 у яе складзе заставаліся г. Гомель і 32 сельскія паселішчы, у якіх налічвалася 202 дымы ў 88 службах (у самым буйным с. Губічы было 16 дымоў). Гэта сведчыць пра вельмі нізкую заселенасць — крыху больш за 1 тыс. чал. на плошчы каля 4,5 тыс. км². Паводле адм. рэформы 1565—66 увайшла ў Рэчыцкі пав. Менскага ваяв. У 1567 намеснік К.В.Цішкевіч трымаў у Г.в. гарнізон у 30 коннікаў. Да канца 16 ст. яшчэ некалькі сёл (Волатава, Данілкавічы, Карма, Носавічы, Церашковічы і інш.) раздадзены ў лен. Асн. частка староства на працягу больш як паўстагоддзя знаходзілася ў трыманні гальшанскай галіны Сапегаў: Багдана (каля 1570—82), яго сыноў Андрэя (1582—1610) і Паўла Стафана (1610—35). Потым яго трымалі Аляксандр Слушка (да 1658) і яго сын Зыгмунт (да 1671), М.К.Радзівіл (1671—80). У канцы 16—сярэдзіне 17 ст. Г.в. не раз цярпела ваен. разбурэнні і заставалася адной з самых слабазаселеных ускраінных валасцей. У інвентары 1681 упамінаецца толькі 20 сельскіх паселішчаў. У 2-й чвэрці 18 ст. пачаўся эканамічны і дэмаграфічны ўздым, які ўзмацніўся ў час знаходжання староства ў руках аднаго з буйнейшых магнатаў таго часу — канцлера ВКЛ М.Ф.Чартарыйскага. У 1738 староства налічвала 37 паселішчаў (з іх 18 нядаўна заснаваных слабод). У люстрацыі 1765 упамінаюцца 58 паселішчаў, 2265 двароў. У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) далучана да Рас. імперыі, налічвала, паводле адных звестак, каля 6 тыс. душ мужчынскага полу, паводле іншых — каля 12 тыс. мужчынскіх душ у 82 паселішчах.

***Вячаслаў Насевіч.***



**Гомельскі замак**. Існаваў у г. *Гомель* у 14—18 ст. Размяшчаўся на высокім правым беразе р. Сож пры ўпадзенні ў яе ручая Гомій (Гамяюк). Ад гар. забудовы Гомеля, што абкружала яго з З і Пд, быў аддзелены абарончым ровам шырынёй 30—35 м. Пляцоўка мела сегментападобную форму з перыметрам умацаванняў каля 460 м. Стромкія і высокія схілы ў бок Сажа і Гомія ўдала спалучаліся са штучнымі ўмацаваннямі. Замак меў магутны абарончы вал, драўляныя шмат'ярусныя вежы, сцены-гародні з баявой галерэяй, уязную браму з перакінутым цераз роў пад'ёмным мостам — «узводам». Сцены ўмацаванняў на значную вышыню былі абмазаны глінай, якая засцерагала іх ад гніення і выконвала проціпажарную ролю. З замка патаемны падземны ход вёў да Сажа, адкуль у час аблогі бралі ваду. З канца 1-й трэці 14 ст. Гомель быў парубежным умацаваным горадам на паўд.-ўсх. ускраіне ВКЛ, уваходзіў у абарончы пояс замкаў Пасожжа. У *вайну Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* у чэрв. 1535 Гомель аблажыла і ўзяло моцнае войска ВКЛ на чале з гетманам Ю.Радзівілам, гетманам кароным Я.Тарноўскім і кіеўскім ваяводам А.Неміровічам. Значэнне Г.з. для абароны ВКЛ асабліва вырасла ў сувязі з барацьбой супраць пастаянных разбуральных набегаў крымскіх татараў. Сюды з бліжэйшых гарадоў накіроўваліся хлебныя запасы і спец. групы коннай «сторожи», а з Віленскага арсенала ў 1552, 1562 і 1563 дастаўляліся ўзбраенне і амуніцыя. Так, Чачэрская воласць абавязвалася мець на ўтрыманні ў Гомелі за свой кошт круглы год атрад «сторожи». У 1557 гарнізон Г.з. павялічаны да 200 чал. драбаў. На рамонт умацаванняў прыцягвалася насельніцтва Чачэрска, Прапойска, інш. гарадоў і валасцей Падняпроўя і Пасожжа. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* 5.5.1581 Гомелем ненадоўга авалодалі войскі Івана IV Грознага. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* у 1633 горад і замак вытрымалі штурмы казацкіх сотняў Багдана Булгакава і Івана Ярмоліна. Некалькі разоў Г.з. быў захоплены ўкр. казакамі ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51* і *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Войны прынеслі вял. спусташэнні Гомелю. Але замак, паводле звестак за 1666, усё яшчэ захоўваў сваю магутнасць. У 1737 уладальнік Гомельскага стараства М.Чартарыйскі пабудаваў тут новы моцны дубовы замак з вежамі і сценамі, у якіх былі шматлікія байніцы, паглыбіў равы і адрамантаваў пад'ёмны мост. Замак існаваў яшчэ ў 1780. Потым вежы і сцены Г.з. разабраны, валы скапаны, а на яго месцы пабудаваны палац Румянцавых—Паскевічаў.

*Літ.*: Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Мн., 1987.

***Міхась Ткачоў.***

**Гомеля абарона 1651**. Адбывалася супраць укр. казакоў 3—9.6.1651 у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Пасля аднаўлення ваен. дзеянняў на Украіне палкоўнік М.*Нябаба* накіраваў да Гомеля, які абаранялі войскі польнага гетмана ВКЛ Я.Радзівіла, каля 8 тыс. казакоў (у складзе іх было шмат бел. сялян) на чале з палкоўнікамі П.М.Забелам, Літвіненкам і Паповічам. Паводле сведчання палоннага казака, Нябаба так блаславіў іх: «Ідзіце, малайцы, да сваіх родных і ўсіх мяшчан-ляхаў у Гомеле ў пень сячыце, ніводнага ў жывых не пакідайце. Горад спаліце, а потым у Быхаў ідзіце, яго бярыце, але толькі магілёўцам крыўды не чыніце. Калі да трох разоў Гомеля не возьмеце, тады да мяне за гарматай хутчэй пасылайце». 3 чэрв. казакі падышлі да Гомеля, пяхота (3 тыс. чал.) за ноч і дзень выкапала шанцы да самай гар. агароджы (паркана), конніца разгрупавалася па вёсках, а 400 коннікаў былі разасланы па ўсіх дарогах у дазор. На дапамогу казакам кожны дзень прыходзіла па некалькі соцень чалавек. Гомель таксама добра падрыхтаваўся. Паводле звестак уцекачоў з-пад Гомеля, «пяхота там гатова добра абараняць горад, мае неабходную колькасць пораху і прадуктаў харчавання на некаторы час». На дапамогу абаронцам і для дастаўкі харчавання Радзівіл паслаў мазырскага старасту з некалькімі сотнямі чалавек. У ноч на 5 чэрв. пачаўся штурм горада, апоўначы абаронцы адкінулі казакоў ад агароджы, у другім месцы мяшчане разам з жаўнерамі нанеслі казакам значныя страты. У час аднаго са штурмаў казакам удалося залезці на гар. сцяну, там пачалася рукапашная бітва. Наёмная пяхота капітана Мантгомеры масіраваным агнём адкінула праціўніка. Адначасова ішоў штурм горада з боку Прачысценскай царквы, дзе быў слабы паркан і многія слупы падгнілі (месца падказаў здраднік — гомельскі мешчанін), але на абарону гэтага ўчастка была кінута ўся пяхота, і казакі панеслі вял. страты ў людзях і адступілі. Пасля такой няўдачы Забела паслаў сваіх людзей да Нябабы па гармату. 5 чэрв. казакі зрабілі спробу выбавіць гомельскі гарнізон на адкрытае месца і даць яму бой, з гэтай мэтай яны імітавалі прыбыццё падмогі гамяльчанам. Аднак Мантгомеры разгадаў намер казакоў і нікому не дазволіў выходзіць з гар. брамы. 6 чэрв. казакі пабудавалі 14 «гуляй-гарадоў», 4 з іх падцягнулі да Чачэрскай брамы, 3 — да моста і пачалі новы штурм горада, але абаронцы моцным агнём з гармат і гакаўніц вымусілі казакоў адступіць. Няўдачна скончыліся таксама ўсе 15 штурмаў, праведзеных казакамі Літвіненкі і Паповіча. 9 чэрв. Забела атрымаў загад Нябабы «днём і ноччу вяртацца назад». Казакі спешна адышлі ад Гомеля, не захапіўшы нават нарыхтаванага правіянту.

*Літ.*: Документы об освободительной войне украинского народа 1648—1654 гг. Киев, 1965. С. 457—458; Абецедарский Л.С. Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI—XVII в. Мн., 1978. С. 131.

***Васіль Мялешка.***

**гон**, гоня, народная мера даўжыні і плошчы. 1) Участак паляўнічага промыслу. 2) Даўжыня пракоса да адпачынку касца. 3) Адлегласць, якую праязджалі да змены коней. 4) Адлегласць, якую праходзіў араты да адпачынку запрэжкі. Раўнялася прыблізна 30—120 сажням (каля 60—240 м, звычайна каля 120 м).

*Літ.*: Молчанова Л.А. Народная метрология. Мн., 1973.

***Яўген Аніхчанка.***

**Гонёндз** (Goniądz), горад у Рэспубліцы Польшча, гл. *Ганязь*.

**горад**, значны населены пункт, які выконвае функцыі эканамічнага (рамеснага, гандлёвага, фінансавага), палітыка-адміністрацыйнага, рэлігійнага, культурнага, ваенна-адміністрацыйнага цэнтра. На Беларусі першыя Г. ўзніклі ў 9—13 ст. і ўяўлялі сабой агароджанае (адсюль назва «горад») умацаванае паселішча. Ва ўсх.-слав. летапісах і інш. крыніцах 9—13 ст. на тэр. Беларусі названа 35 Г., што дакладна ідэнтыфікаваны і даследаваны археалагічна. Умацаваным цэнтрам Г. быў дзядзінец — месца сховішча насельніцтва ў час ваенных дзеянняў. У буйных Г. там былі рэзідэнцыі



(двары) князя або яго намесніка, епіскапа, свецкіх і царкоўных ураднікаў і залежнага ад іх насельніцтва. Каля дзядзінца размяшчаўся пасад (*места*), насельніцтва якога спецыялізавалася на рамесна-гандлёвай дзейнасці. Звычайна на пасадзе каля ўвахода на дзядзінец размяшчалася гандлёвая плошча — торг. У буйных Г. пасад абводзіўся дрэва-землянымі ўмацаваннямі і ператвараўся ў вакольны горад. У 2-й пал. 13—15 ст. Г. Беларусі перажывалі заняпад. Рэзка зменшылася іх насельніцтва, некат. страцілі паліт. і эканам. значэнне або зніклі зусім. У Літве ў 13—14 ст. ішоў працэс утварэння Г., якія выраслі з адм. цэнтраў зямель і валасцей, ваенных умацаванняў, вакол якіх гуртавалася рамесна-гандлёвае насельніцтва. Працэс утварэння Г. паскорыўся пасля разгрому ў пач. 15 ст. Нямецкага ордэна і спынення нападаў крыжакоў. У сярэдзіне 16 ст. даследчыкі налічваюць на землях сучаснай Літвы 13 Г.

Горадабудаўнічыя працэсы, якія суправаджаліся канцэнтрацыяй рамяства і гандлю, прывялі да ўтварэння ў ВКЛ у 15—16 ст. вял. колькасці малых Г. — *мястэчак*. У крыніцах 16—18 ст. тэрміны Г. (места) і мястэчка ўзаемазамяняльныя ў дачыненні да малых і сярэдніх Г. Навукоўцы ў якасці крытэрыя адрознення мястэчка ад Г. прапануюць улічваць большую сувязь местачкоўцаў з с.-г. заняткамі і статыстычны крытэрый. Прапануецца лічыць мястэчкамі населеныя пункты гар. тыпу, якія маюць менш за 300 дымоў (З.Ю.Капыскі, А.М.Карпачоў, А.П.Грыцкевіч), менш за 200—250 дымоў (С.Александровіч) або менш як 100—150 дымоў (Е.Ахманскі). Згодна з класіфікацыяй Капыскага, малыя Г. налічвалі больш за 300 дымоў, сярэднія — больш за 500 дымоў і вялікія — больш за 1000 дымоў. У сярэдзіне 17 ст. ён налічваў на тэр. сучаснай Беларусі 37 Г. і 425 мястэчак.

Паводле юрыд. статусу большасць Г. былі дзяржаўнымі. Некат. Г. ў выніку падаравання вял. князямі перайшлі ва ўладанне магнатаў (Клецк, Давыд-Гарадок, Слуцк, Капыль і інш.). Некат. прыватнаўладальніцкія Г. ўзніклі дзякуючы намаганням магнатаў пры садзейнічанні дзярж. улады (Біржы, Нясвіж і інш.). Да 16 ст. Г. ВКЛ захоўвалі цесную адм. і эканам. сувязь з навакольнай с.-г. тэрыторыяй і ўтваралі з ёй адзіную зямлю (валасць). Г. былі непарыўна звязаны з валасцямі як адм., гаспадарчы і ваенны цэнтр. Гараджане валодалі значнымі с.-г. землямі і неслі дзярж. ваенную павіннасць. Значным было самакіраванне Г., якое ажыццяўлялася праз веча і абранне мясц. адміністрацыі. Узмацненне ў 14—15 ст. цэнтральнай дзярж. адміністрацыі і шляхты прывяло да абмежавання гар. адміністрацыі, павелічэння ролі мясцовага дзярж. апарату (намеснікі, дзяржаўцы, старасты), аслабла сувязь Г. з іх с.-г. акругай. З канца 14 ст. гар. абшчыны ВКЛ атрымлівалі права на самакіраванне на ўзор нямецкіх і польскіх Г. — *магдэбургскае права* (Вільня ў 1387, Берасце ў 1390). Пры гэтым новыя нормы гар. права спалучаліся з традыцыйнымі, на аснове іх сінтэзу ў некат. Г. узнікалі мясц. кодэксы гар. права — *вількеры*.

У 16—1-й пал 17 ст. Г. ВКЛ перажывалі росквіт. Значна вырасла іх насельніцтва, назіраецца некат. спецыялізацыя эканам. дзейнасці (гарбарнае рамяство ў Слуцку, будаўнічае ў Віцебску, зброевае ў Менску і Полацку, апрацоўка футра ў Магілёве). Найзначнейшымі Г. былі Вільня, Слуцк, Магілёў, Менск, Бярэсце, Кіеў, Луцк і інш. На сярэдзіну 17 ст. гар. насельніцтва складала каля 370 тыс. чал. (прыблізна 8,2% насельніцтва). Узніклі новыя асаблівасці гар. планіроўкі. Былыя дзядзінцы і ў некат. выпадках вакольныя гарады (яны пачалі звацца замкамі) ператвараліся ў месца размяшчэння дзярж. або прыватнаўладальніцкіх органаў кіравання. На значнай адлегласці ад іх разбівалася прамавугольная ў плане рыначная плошча, якая рабілася новым адм. і горадабудаўнічым цэнтрам. На ёй размяшчаліся крамы, дамы заможных гараджан, ратуша, царква, касцёл. На пабудову сінагог, мячэцяў, лютэранскіх і кальвінскіх збораў існавалі пэўныя абмежаванні. Рыначная плошча звычайна мела значныя памеры, каб умясціць вял. колькасць людзей, коней і вазоў у час кірмашоў. Сац. склад гараджан быў неаднародны. Разам з мяшчанамі — членамі гар. абшчыны ў Г. жылі падданыя свецкіх і духоўных феадалаў, сяляне, шляхціцы, духавенства, ваенныя (гарнізоны замкаў). Не ўваходзілі ў саслоўе мяшчан яўрэйскае і татарскае насельніцтва, якое мела ўласныя органы самакіравання. Незалежныя ад гар. абшчыны кварталы з іх насельніцтвам ўтваралі асобныя ў прававых адносінах утварэнні — *юрыдыкі*. Сярод мяшчан пераважалі рамеснікі і гандляры (купцы, прасалы, крамнікі), яны аб'ядноўваліся ў *цэхі* (брацтвы). Пазацэхавыя рамеснікі (партачы) праследаваліся. У Г. дзейнічалі шматлікія рэлігійныя, дабрачынныя, асветныя, мядовыя *брацтвы*. Члены гар. абшчыны (асабліва патрыцыят і паспольства) карысталіся пэўнымі прывілеямі, зафіксаванымі ў велікакняжацкіх граматах, прывілеях на магдэбургскае права. Яны ўдзельнічалі ў выбарах органаў гар. самакіравання (*магістрат*, *рада*), ладзілі *святы гарадскія*.

Г. ВКЛ значна пацярпелі ў час *антыфеадальнай вайны 1648—51*, *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*, *Паўночнай вайны 1655—60*. Шмат іх было спалена, гар. насельніцтва скарацілася напалову. Аднаўленню Г. перашкодзіла *Паўночная вайна 1700—21*. Заняпад Г. быў выкарыстаны феадаламі для пашырэння сваіх гар. уладанняў, павелічэння прыватных юрыдык. У каралеўскіх Г. павялічыліся ўладанні каталіцкай царквы, перш за ўсё за кошт каралеўскіх падараванняў і ахвяраванняў свецкіх феадалаў і багатых гараджан. У 2-й пал. 18 ст. на тэр. сучаснай Беларусі было 39 Г. і каля 350 мястэчак, дзе жыло каля 250 тыс. чал. (каля 11% насельніцтва), аднак гар. насельніцтва не дасягнула ўзроўню сярэдзіны 17 ст. У Літве на мяжы 18—19 ст. налічвалася каля 300 Г. і мястэчак, гар. насельніцтва ў канцы 18 ст. дасягала каля 12,5%.

Аднаўленне Г. ажывілася ў сярэдзіне 18 ст. разам з эканам. уздымам у краіне. Рост уплыву магнатаў у гар. справах прывёў да таго, што сойм 1776 пазбавіў магдэбургскага права дзярж. Г., акрамя ваяводскіх і павятовых цэнтраў (прыватнаўладальніцкія Г. захавалі магдэбургскае права). Гар. самакіраванне апынулася пад кантролем старастаў (фактычна магнатаў). Чатырохгадовы сойм 1788—92 зрабіў захады па аднаўленні правоў малых і сярэдніх гарадоў на самакіраванне. 18.4.1791 быў прыняты закон «Гарады нашы каралеўскія ў дзяржавах Рэчы Паспалітай», пазней абвешчаны часткай Канстытуцыі 3 мая 1791. Згодна закону мяшчане сталі ўласнікамі гар. зямель, атрымалі права набываць інш. землі, служыць у адміністрацыі, судах і войску. У 1791—92 самакіраванне на аснове магдэбургскага права было адноўлена ці ўведзена ўпершыню ў шматлікіх Г. і мястэчках ВКЛ (на тэр. сучаснай Літвы такіх населеных пунктаў



было каля 60). Гарадзенскі сойм 1793 скасаваў рэформы 1791—92, самакіраванне было захавана ў тых Г. і мястэчках, якія ім карысталіся да 1776.

*Літ.*: Грушевский А.С. Города В. Княжества Литовского в XIV—XVI вв.: Старина и борьба за старину. Киев, 1918; Łowmiański H. «Wchody» miast litewskich // Ateneum Wileńskie. 1923. № 3—4; 1924. Z. 5—6; Дружчыц В. Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры // Гістарычна-археолёгічны зборнік. Мн., 1927. № 1; Ochmański J. W kwestii agrarnego charakteru miast Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI wieku // Studia historica. Warszawa, 1958; Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1966; Яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI—первой половине XVII в. Мн., 1975; Alexandrowicz S. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. // Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1970. T. 7; Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975; Яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979; Kryževičius V. Lietuvos privilegijuotieji miestai XVII a. antroji pusė—XVIII a. Vilnius, 1981; Lietuvos miestų istorijos šaltiniai. T. 1—3. Vilnius, 1988—2001; Сас П.М. Феодальные города Украины в конце XV—60-х годах XVI в. Киев, 1989; Gudavičius E. Miestų atsiradimas Lietuvoje. Vilnius, 1991; Rimša E. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės miestų antspaudai. Vilnius, 1999; Бардах Ю. Лад местаў на магдэбургскім праве ў Вялікім Княстве Літоўскім да паловы XVII ст. // Бардах Ю. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2002.

***Валерый Пазднякоў.***

**Горвальскі замак.** Існаваў у 16—18 ст. Размяшчаўся на ўсх. ўскраіне мяст. Горваль у Рэчыцкім пав., на правым беразе р. Бярэзіна. Быў важным пунктам кантролю за пераправай цераз Бярэзіну і водным шляхам да Дняпра. Замчышча са слядамі земляных бастыёнаў з усх. боку мае форму, блізкую да 4-вугольнай (40 × 20 м). З Пн і Пд ахаваны прыроднымі ярамі, з У — высокім (да 13 м) схілам берага Бярэзіны, з напольнага боку — штучнымі ровам і валам. У 16 ст. замкам валодалі дзяржаўцы Б.І.Шалуха (з 1528), каралева Бона, князь В.Сангушка. У 17 ст. Г.з. — уладанне Віленскага капітула. Паводле іканаграфічных матэрыялаў, Г.з. у 16 ст. быў бастыённым, але меў і драўляныя ўмацаванні. У 1648 пад Горваллю ўкр. казакі разбілі войска стражніка ВКЛ Р.Мірскага і авалодалі замкам. У ліст. 1654 казакі гетмана І.Н.Залатарэнкі ўзялі Г.з. штурмам, у выніку чаго «замок Горволь позжено». Пазней Г.з. адноўлены і праіснаваў да *Паўночнай вайны 1700—21*, у час якой быў канчаткова знішчаны. Замчышча даследаваў у 1981 М.А.Ткачоў.

***Міхась Ткачоў.***

**Горкі** (цяпер горад, цэнтр Горацкага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Аршанскім пав. Упершыню ўпамінаецца ў дакументах пач. 16 ст. як сяло ў складзе *Горы-Горацкага маёнтка*. Першы вядомы ўладальнік сяла — кн. Друцкі-Горскі. У *Інфлянцкую вайну 1558—82* Г. заняты рас. войскамі (1563). З 1584 належалі Сапегам. У 1619 Л.Сапега даў жыхарам прывілей на самакіраванне. У 1633 Г. перайшлі да старэйшага сына Сапегі Яна Станіслава, а пасля яго смерці ў 1635 — да малодшага сына Казіміра Льва. З 17 ст. цэнтр маёнтка. У Г. рэгулярна праводзіліся кірмашы. У 1-й пал. 17 ст. Г. ўпамінаюцца як горад. У пачатку *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* знаходзіліся пад кантролем Бел. палка пад камандаваннем Г.Паклонскага. З 1660 уладанне А.Палубінскага, пабудавана правасл. царква. Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 Г. засталіся ў складзе Рэчы Паспалітай. Пасля смерці Палубінскага ў 1679 Г. перайшлі да яго дачкі Ізабелы, якая ў 1686 выйшла замуж за Е.С.Сапегу (меў тытул графа «на Горы-Горках»). З 1676 у Г. існавала правасл. брацтва і школа. Паводле інвентара 1683, у горадзе 510 дамоў, 2 прадмесці — Зарэчча і Казіміраўская Слабада, працавалі рамеснікі 28 спецыяльнасцей, у горадзе 3 рынкі. У 1695 Сапега даў яўрэям горада прывілей на права будаваць сінагогі і займацца гандлем. Паводле сведчання стольніка Пятра І П.А.Талстога, які спыняўся ў Г. у сак. 1697, у горадзе налічвалася больш за 1 тыс. жыхароў. У *Паўночную вайну 1700—21* знаходзіліся ў зоне ваен. дзеянняў. У 1717 Г. набыў А.Д.Меншыкаў і валодаў імі да 1727. У 1732 імператрыца Ганна Іванаўна перадала горад графу М.А.Патоцкаму, потым яго набыў граф Я.М.Салагуб. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Горацкага р-на. Мн., 1996.

***Уладзімір Ліўшыц.***

**Горсей** (Хорсі, Horsey) Джэрам (?—пасля 1626), англійскі дыпламат і камерсант. У 1573—91 ў Расіі, агент англійскай гандлёвай Маскоўскай кампаніі, для якой дамогся шэрагу прывілеяў. У 1581—91 выконваў важныя дыпламат. даручэнні англійскага і рас. ўрадаў. Пасля вяртання на радзіму быў абраны дэпутатам парламента, а ў 1622 арыштаваны за апазіцыйныя выступленні супраць урада караля Якава І. Аўтар некалькіх прац пра Расію і яе знешнюю палітыку ў перыяд праўлення Івана IV Грознага і Фёдара Іванавіча. Пры апісанні сваіх падарожжаў праз Вільню і Беларусь расказвае пра сустрэчу з князямі Радзівіламі, пра захоп Іванам IV Грозным Полацка ў 1563 у час *Інфлянцкай вайны 1558—82* і інш.

*Тв.*: Записки о России, XVI—начало XVII в. / Пер. А.А.Севастьяновой. М., 1990.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Горская воласць**, назва буйнога прыватнага ўладання ў Аршанскім пав. ў 16 ст. Гл. ў арт. *Горы-Горацкі маёнтак*.

**Горскі замак.** Існаваў у 16—18 ст. у г. Вял. Горы (цяпер в. Горы Горацкага р-на). Бастыённы Г.з. галандскага тыпу закладзены ў канцы 16 ст. ўладальнікам Гораў канцлерам ВКЛ Л.Сапегам. Пад абаронай замка вырасла мястэчка (потым горад) Вял. Горы, якое ў 1619 атрымала ад Сапегі вял. ўстаўны прывілей. Замак размяшчаўся на гары, каля падножжа якой з У і Пн працякала р. Карчаваха. Вышыня валоў над далінай ракі і цяпер большая за 20 м. Г.з. меў 7 бастыёнаў, злучаных паміж сабой валамі-курцінамі рознай даўжыні і вышыні. З паўд.-ўсх. боку замка, звернутага да горада, быў вал вышынёй 3 м і шырынёй у аснове да 8 м. Гэта курціна пры даўжыні больш за 210 м мела 2 бастыёны на канцах. Паміж валамі і горадам праходзіў абарончы роў шырынёй каля 15 м і глыбінёй 8—10 м. Праход да курціны быў зроблены прыблізна па яе сярэдзіне, ішоў па насыпной дамбе. Адзіны ўваход у Г.з. знаходзіўся з паўн. боку. Відаць, як ва ўсіх бастыённых замках, у Г.з. існавала спец. 2-ярусная вежа-брама, убудаваная ў тоўшчу землянога вала. Аналіз планавай кампазіцыі замка дае падставу меркаваць, што гэты страж. ўваход знаходзіўся пад аховай 2 бастыёнаў, з якіх фланкіраваліся перакрыжаваным агнём усе подступы да яго. Дарога да замка пачыналася ад паўд. вуглавога бастыёна, ішла каля падножжа валоў, потым — па дне рова і была пад пастаянным кантролем абаронцаў. Заходні, перадпольны ўчастак замкавых



умацаванняў вызначаецца канцэнтраванай магутнасцю і прадуманасцю агню з бастыёнаў і курніц. Глыбіня рова тут дасягае 12 м, шырыня — 15 м. Унізе быў дадатковы ніжні вал. Усх. ўчастак абароны Г.з. вызначаецца памерамі бастыёнаў і магутнасцю абарончага рова, які пры шырыні 15 м дасягае 12 м глыбіні. Вуглавы паўд.-ўсх. бастыён меў дадатковы ніжні бастыён, што значна ўзмацняла ўсх. сектар абароны замка. Агульны памер абарончых умацаванняў Г.з. складаў 800 м. Нягледзячы на тое, што галандская бастыённая сістэма не прадугледжвала наяўнасці на бастыёнах вежаў, на валах высокіх сцен яны спачатку, відаць, былі. На думку некат. даследчыкаў, замак меў 7 вежаў. Захавалася «Ревизия в замку Горском в цекгавзе армате» 1627. У замку знаходзіліся 2 медныя гарматы і шмат ручной агняcтрэльнай зброі. Феадальназалежнае насельніцтва Вял. Гор, разбітае на дзесяткі, абавязвалася абараняць, даглядаць і рамантаваць пэўны ўчастак замка. Дакументы 1683 згадваюць лінію ўласна гар. умацаванняў — «паркан». Відаць, ён існаваў значна раней, да 1654. У 1663 «фартэцыя Горская» згадваецца як вельмі разбураная, але ў дакументах 1680-х г. ужо ўпамінаюцца замак і гар. астрог. У апошні раз умацаванні Г.з. спрабаваў выкарыстаць у 1708 шведскі кароль Карл XII, які ўмацаваўся тут і чакаў звестак ад Мазепы. Пазней Г.з. страціў сваё ваен. значэнне.

*Літ.*: Т к а ч о ў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Міхась Ткачоў.***

**Горы-Горацкі маёнтак**, Г о р с к а я в о л а с ц ь (16 ст.), Г о р ы - Г о р а ц к а е г р а ф с т в а (17—18 ст.), буйное прыватнае ўладанне ў Аршанскім пав. ў 15—19 ст. Цэнтр уладання — *Горскі замак*, з 17 ст. — мяст. *Горкі*. Тэр. маёнтка ахоплівала верхнюю частку басейна р. Проня ў сучасным Горацкім і Дрыбінскім р-нах, межавала на Пн з Дубровенскім графствам і маёнткам Раманава, на З — з воласцю Басея, на Пд — з Магілёўскай эканоміяй, на У — з Мсціслаўскім княствам (пазней стараствам). У 1-й пал. 15 ст. воласць належала, паводле ўскосных звестак, друцкаму кн. Івану Сямёнавічу Пуцяту. Каля 1440 падзелена паміж яго сынамі, у далейшым належала нашчадкам Васіля Пуцяціча (князям *Друцкім-Горскім*) і Міхаіла Пуцяціча (князям *Друцкім-Талачынскім*). Адна з галін Друцкіх-Горскіх згасла ў сярэдзіне 16 ст. на ўнуках Васіля Пуцяціча — князях Уладзіміры, Фёдары і Іване Іванавічах Горскіх. Іх уладанні адышлі да сястры Аўдоцці (удава Багдана Марцінавіча Храбтовіча), а затым да яе дзяцей — Пятра Храбтовіча і Багданы (жонка Анікея Гарнастая). У 1558 Храбтовіч сваю частку матчыных маёнткаў прадаў Гарнастаю. Інш. галіна князёў Горскіх (унук Васіля Пуцяціча Фёдар Дзмітрыевіч і яго нашчадкі) працягвала валодаць часткай воласці да пач. 17 ст. 3-я частка належала сыну Міхаіла Пуцяціча Юрыю Шышаўскаму (цэнтрам яго ўладанняў быў двор Шышава ў той жа воласці), затым сыну апошняга Васілю Талачынскаму (памёр у 1546). Гэта частка была падзелена паміж удавой Васіля Марыяй Багданаўнай Заслаўскай (якая хутка ўзяла шлюб з Іванам Гарнастаем, братам Анікея) і сёстрамі Людмілай і Настассяй Талачынскімі. Доля Настассі затым адышла да яе дачкі ад шлюбу з кн. Канстанцінам Друцкім-Канаплёй, князёўны Багданы, і яе мужа Івана Іванавіча Сапегі, пасля смерці Багданы ў 1585 — да яе сына Льва Сапегі. Саўладальнікамі апошняга ў канцы 16 ст. былі кн. Юрый Абрамавіч Горскі, паны Гаўрыла і Астафій Іванавічы Гарнастаі, Андрэй Нікадзімавіч Цеханавецкі з сынам Станіславам. У канцы 16—пач. 17 ст. Л.Сапега выкупіў у саўладальнікаў іх часткі Г.-Г.м. і стварыў адзіную кампактную латыфундыю, даход якой у 1624 складаў 15 692 злотых і 6 грошаў. У 1633 маёнтак адышоў да сына Л.Сапегі Яна Станіслава, а пасля яго смерці ў 1635 — да другога сына, Казіміра Льва. Апошні, паміраючы без нашчадкаў у 1656, завяшчаў Г.-Г.м. сваёй стрыечнай сястры Соф'і Андрэеўне Сапяжанцы, удаве кн. Канстанціна Палубінскага. Пасля яе смерці маёнтак адышоў да яе сына кн. Аляксандра Гілярыя Палубінскага. У 1666 уладанне ахоплівала 76 населеных пунктаў, буйнейшымі з якіх былі мястэчкі Горы і Горкі, сёлы Буда, Вял. Шарапы, Галышына, Андрухі, Гушчын, Клядневічы, Нядзведзічы, Хадаровічы, Каралевічы, Новы Дрыбін і інш. Паводле падымнага тарыфу 1667, маёнтак налічваў 580 дымоў. Яго с.-г. землі ахоплівалі 1422 валокі (каля 30 тыс. га). Пасля смерці князя А.Г.Палубінскага (1679) маёнтак стаў спадчынай яго дачкі Ізабелы, якая ў 1686 выйшла замуж за Ежы Станіслава Сапегу, вярнуўшы такім чынам Г.-Г.м. у дом Сапегаў. У канцы 17 ст. маёнтак быў захоплены сіламі магнацкай кааліцыі, якая вяла міжусобную вайну з бацькам Ежы Станіслава, віленскім ваяводам і гетманам Казімірам Янам Сапегам. У час Паўн. вайны 1700—21 уладанні Казіміра Яна і яго сыноў, што перайшлі на бок шведаў, былі канфіскаваны. Г.-Г.м. перайшоў у распараджэнне гетмана Людвіка Пацея. У 1713 маёнтак налічваў 1558 двароў. У 1717 набыты кн. А.Д.Меншыкавым за 67,6 тыс. руб. У 1727 канфіскаваны рас. урадам у казну. У 1732 уладальнікам Г.-Г.м. быў граф Міхал Патоцкі, затым маёнтак адышоў да берасцейскага ваяводы Яна Міхала Салагуба (памёр у 1748). У 1749 ён падзелены паміж яго сынамі Юзафам і Антоніем. У 1777 Юзафу Салагубу належала ў Г.-Г.м. 12 075 душ мужч. полу. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) далучаны да Рас. імперыі, увайшоў у Аршанскую, Магілёўскую і Мсціслаўскую правінцыі, пазней у Аршанскі і Чавускі пав. Магілёўскай губ. З 1831 маёнтак стаў дзярж. уласнасцю.

*Літ.*: S a p i e h o w i e. T. 1—3. Pb., 1890—94; W o l f f J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895.

***Вячаслаў Насевіч.***

**готыка** (італьян. gotico літар. гоцкі ад назвы герм. племя готаў), г а т ы ч н ы с т ы л ь, мастацкі стыль, пашыраны ў краінах Зах., Цэнтр., часткова Усх. Еўропы паміж сярэдзінай 12 і 16—пач. 17 ст. Узнік на Пн Францыі. Заснаваны на філасофска-тэалагічных ідэях сярэдневякоўя, развіцці і ўдасканаленні канструкцыйна-тэктанічнай структуры і дэкаратыўных сродкаў архітэктуры. Вызначальная роля ў развіцці готыкі належала сакральнай архітэктуры. Асн. элементы гатычнай канструкцыі: аконныя прасценкі мінімальнага сячэння, унутраныя апорныя слупы абмежаванага сячэння, аркі спічастай формы, нервюры скляпенняў, аркбутаны і контрфорсы. Канструкцыя мела каркасны характар. Гатычныя саборы вылучаліся вял. вышынёй і стральчатымі вокнамі з каляровымі вітражамі. Гал. фасады сабораў звычайна ўпрыгожвалі ажурнымі вежамі, аздаблялі рэльефнай і круглай аб'ёмнай скульптурай. Уваходы падкрэсліваліся «перспектыўнымі» парталамі, багата ўпрыгожанымі гарэльефамі, тэматычнымі кампазіцыямі ў тымпанах і арнаментальнымі дэталямі. Над цэнтр. уваходам рабілі вялікае круглае акно-ружу. Гал. відам выяўл. мастацтва Г. была скульптура, якой аздаблялі фасады сабораў і іх інтэр'еры.



Да арт. **Готыка**. Касцёл Пятра і Паўла ў Коўне. Пач. 15 ст.

У параўнанні з помнікамі класічнай франц. Г. спецыфічную трактоўку гэты стыль атрымаў у Італіі, Іспаніі, Партугаліі. Найб. вядомыя помнікі сакральнай готыкі: сабор Парыжскай Маці Божай, саборы ў Ам'ене, Рэймсе (Францыя), Кентэрберы, Уэльсе, Вестмінстэрскім абацтве ў Лондане (Англія), Кёльне, Фрайбургу (Германія), Празе (Чэхія), Мілане, Сіене (Італія), Бургасе (Іспанія), Кракаве, Гнезне, Познані, Гданьску (Польшча), Таліне, Тарту (Эстонія), Рызе (Латвія), Вільнюсе, Каўнасе (Літва), Львове (Украіна). У развіцці самабытных форм т.зв. «цаглянай готыкі» вял. ролю адыгралі паўн. Германія, Аўстрыя, Трансільванія, Чэхія, Прусія, Польшча. Гэта адгалінаванне еўрап. Г. атрымала таксама распаўсюджанне ў культуры ВКЛ.



Да арт. **Готыка**. Касцёл у Ішкалдзі. 3-я чвэрць 15 ст.

У культавых гатычных пабудовах, узведзеных з цэглы, асн. канструкцыйнымі элементамі, якія прымаюць цяжар скляпенняў, з'яўляюцца апорныя слупы, сцены значнай таўшчыні і контрфорсы. Зах. і ўсх. фасады завяршаліся франтонамі трохвугольнай формы і з прыступкавым абрысам. Для памяншэння інертнай масы франтоны ўзводзілі больш тонкімі, чым сцены асноўнага аб'ёму. Часткова з гэтай мэтай у франтонах рабілі нішы, якія затым тынкавалі або бялілі. Асн. дэкаратыўныя элементы: абрамленні парталаў і аконных праёмаў, разнастайныя па форме і памерах нішы, аркатура. Нярэдка завяршэнні праёмаў, парталаў, ніш мелі не спецыфічную для готыкі спічастую, а паўцыркульную форму. Інтэр'еры перакрывалі крыжовымі, зорчатымі, сотавымі, сеткавымі скляпеннямі. Часам ужывалі драўлянае перакрыцце інтэр'ера (касцёлы св. Мікалая, св. Ганны ў Вільні, св. Гертруды, св. Мікалая ў Коўне, св. Пятра і Паўла ў Іўі). У архітэктуры ВКЛ Г. прасочваецца ў каталіцкім (касцёлы св. Мікалая, св. Яна, францысканскі Унебаўзяцця Дзевы Марыі, бернардзінскі св. Францыска і Бернардзіна, св. Ганны ў Вільні, «фара Вітаўта», касцёл св. Пятра і Паўла ў Коўне, касцёл Св. Тройцы ў Ішкалдзі, св. Міхала ў Гнезне і інш.) і праваслаўным (цэрквы Прачысценская, Троіцкая, Мікалаеўская ў Вільні, Богаяўленская ў Астрозе, Барысаглебская ў Навагародку, Міхайлаўская ў Сынковічах, Дабравешчанская ў Супраслі, Раства Багародзіцы ў Мураванцы і інш.) храмабудаўніцтве. Яму ўласціва гарманічнае спалучэнне готыкі і рэнесансу, традыцый і ўплываў візантыйска-рускага стылю. У драўляным сакральным дойлідстве асобныя элементы Г. захоўваліся да 18 ст. Архітэктурныя формы, канструкцыі і будаўнічая тэхніка гатычнага стылю характэрны для замкавага дойлідства ВКЛ 14—пач. 17 ст. (Медніцкі, Крэўскі, Лідскі, Гарадзенскі Стары, віленскія Верхні і Ніжні, Навагародскі, Луцкі, Мірскі і інш. замкі).

Гатычны стыль таксама атрымаў пашырэнне ў грамадзянскай і жылой архітэктуры ВКЛ. Ад першых гатычных ратуш захаваліся толькі фрагменты сцен і сутарэнняў у Вільні і Коўне. Гэта былі 2-павярховыя, прамавугольныя ў плане з стромкім гатычным дахам пабудовы. Па восі гал. фасада стаяла шмат'ярусная вежа. Тарцовыя сцены завяршаліся франтонамі трохвугольнай формы. Інтэр'еры перакрывалі гатычныя скляпенні. Звонку фасады аздаблялі плоскія нішы рознай формы. Дзвярныя праёмы афармлялі парталы з прафіляванай цэглы. У канцы 13 — 1-й пал. 15 ст. Г. пашыраецца ў архітэктуры велікакняжацкіх замкаў (Меднікі, Крэва, Навагародак, Гародня, Вільня, Трокі). Выключным па мастацкай выразнасці помнікам жылой архітэктуры Г. з'яўляецца палац астраўнога Троцкага замка. Ён складаецца з двух 3-павярховых корпусаў, аб'яднаных унутры замкавага двара драўлянымі галерэямі. Урачыстая зала на 1-м паверсе паўд.-ўсх. корпуса была перакрыта зорчатымі скляпеннямі і ўпрыгожана манументальным жывапі-



Да арт. **Готыка**. Вежы касцёла Ганны ў Вільні. Канец 15 ст.


Да арт. **Готыка**. Вокны касцёла Ганны ў Вільні. Канец 15 ст.

сам, выкананым у візантыйска-рускім стылі. У вокны, акцэнтаваныя валікавай цэглай, устаўлены вітражы. Печы замка былі аблямаваны гатычнай кафляй розных тыпаў і форм. Гар. жылая забудова Г. прадстаўлена помнікамі Вільні і Коўна. Тут пераважалі 2-павярховыя, памерам 7—9 × 17—21 м жылыя дамы, павернутыя звычайна гал. фасадам да вуліцы альбо гар. плошчы. Тарцовыя фасады завяршаліся франтонамі, упрыгожанымі нішамі. Звычайна фасадная частка аддзялялася ад франтона вузкай паласой гзымса альбо дэкаратыўнага пояса. Па прычынах функцыянальнага характару сіметрыя і рытм у размяшчэнні вокнаў часта парушаліся. У інтэр'еры прасочваецца дыферэнцыраванасць памяшканняў. У якасці перакрыцця 1-га паверха ўжывалі цыліндрычныя, крыжовыя, а зрэдку нават зорчатыя (Вільня, вул. Гедрэ, 5) ці сотавыя скляпенні (Коўна, Ратушэс, 2). Другі паверх меў драўлянае перакрыцце. Пад уплывам Г. ў гарадах ВКЛ пачалі ўзводзіць драўляныя пабудовы ў «чысты вугал», а таксама з выкарыстаннем прускага муру. Готыка прынесла паўбрус, брус, шалёўку, кроквенную сістэму даху.

Гатычнае аблічча каталіцкіх храмаў ВКЛ дапаўняла драўляная або каменная скульптура, якая змяшчалася ў іх інтэр'ерах. Яна вылучалася паліхромнай расфарбоўкай, была звязана з архітэктурнымі формамі Г., якія падкрэслівала падоўжанымі прапорцыямі. Захаваліся нешматлікія творы скульптуры Г. («Архангел Міхал» з Шарашова, «Архангел Рафал з Товіем» з Ялава, «Грыгорый» з Полацка, «Мадонна» з Вялены, «Мадонна з грушай» з Коўна, «Уваскрэслы Хрыстос» з Крэцінгі, «Ян Хрысціцель з ягнём» з Лабуноўскай капліцы ў Кейданах, рэльеф «Марыя з дзіцем і св. Ганнай» з касцёла ў Балтакю, «Марыя з дзіцем» з Лаўкжэмскага касцёла. Манументальнага гатычнага жывапісу захавалася няшмат. Вял. гіст.-маст. каштоўнасць мае эпітафічная


Да арт. **Готыка**. «Мадонна» з Вялены. Пач 15 ст.

фрэскавая размалёўка «Укрыжаваны з Марыяй і св. Янам Евангелістам», выяўленая ў адной з крыптаў кафедральнага сабора св. Станіслава ў Вільні. У жывапісных і стылістычных прыёмах, пластыцы форм і твараў прасочваюцца ўплывы ранняй нямецкай готыкі. Сувязь з еўрапейскім гатычным мастацтвам мае манументальны жывапіс бернардзінскага касцёла ў Вільні.

У лацінамоўных рукапісах ВКЛ 15—16 ст. быў папулярны гатычны арнамент у афармленні ініцыялаў. Пра гэта сведчаць 6 песеннікаў, аформленых манахамі бернардзінскага кляштара ў Вільні. У свецкім касцюме ВКЛ дамінавалі гатыч-


Да арт. **Готыка**. «Дом Пяркунаса» ў Коўне. Канец 15 — пач. 16 ст.





Да арт. **Готыка**. Касцёл у Сапежышках. 16 ст.

ныя рысы. Яны праявіліся ў сілуэце, колеравых кантрастах, дынаміцы ліній і аб'ёмаў, шматлікіх відах еўрап. адзення і спосабах іх нашэння. Г. прынесла ў культуру ВКЛ характэрныя для гэтага стылю зброю, рыштунак вершніка (мячы, арбалеты, баявыя сякеры, шпоры з зубчастым колам, засцерагальныя даспехі і інш.). Яна прасочваецца таксама ў каваных дэталях архітэктурнага ўбрання. Уласцівая гатычнаму стылю акоўка дзвярэй уяўляе сабой рамбічную сетку з металічных стужак, прыбітых да драўлянай паверхні вялікімі каванымі цвікамі з гранёнымі ці фігурна афармленымі ў выглядзе разеты альбо кветкі плешкамі (дзверы Дабравешчанскай царквы ў Супраслі, металічная агароджа і краты бернардзінскага касцёла ў Вільні). Г. была пашырана і ў вытворчасці кафлі. Вядомы 4 яе тыпы: сасудападобная, кратавая, бязрамкавая кафля з высокім рэльефам, а таксама паўцыліндрычная, нішавая з масверкавым арнаментам альбо завяршэннем спічастай формы. З усіх гіст.-культ. рэгіёнаў ВКЛ Г. найбольш сістэмна і поўна праявілася ў культуры гіст. Літвы.

*Літ.*: Всеобщая история архитектуры. Т. 4. М., Л., 1966; Янкевичене А.С. Основные черты пространства и формы однонефных и зальных готических зданий Литвы // Науч. тр. высш. учеб. заведений Лит.ССР. Сер. Строительство и архитектура. Вильнюс, 1961 Т. 1; Яе ж. Самабытныя рысы беларускай готыкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 1; Яе ж. Принципы и средства композиции фасадов готических жилых домов Литвы // Архитектурное наследство. 1984. Вып. 32; Яе ж. Gotycka architektura sakralna Litwy i Białorusi // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1992. T. 5; Адамонис Т.П. Искусство Литвы // История искусств народов СССР: Искусство XIV—XVII вв. М., 1974; Каталинас К. Комплекс готических изразцов из Вильнюсского Нижнего замка // Археология и история Псковской земли. Псков, 1989; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993; Яго ж. Готыка ў Беларусі // Весці Нац. АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2003. № 3; Яго ж. Готические изразцы Великого княжества Литовского XIV—XV веков // Из истории строительной керамики средневековой Восточной Европы. СПб., 2003; Габрусь Т.В. Што такое беларуская готыка? // Мастацтва. 1997. № 9.

***Алесь Кушнярэвіч.***

**Грабніцкі** Фларыян (1684?, Полацкае ваяв.—1762), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. Са шляхецкай сям'і. Прыняў манаства ў ордэне базыльян. Скончыў Львоўскі папскі калегіум (паводле інш. звестак, Віленскую акадэмію). Д-р тэалогіі. Выкладаў філасофію ў Жыровіцкай базыльянскай школе, ігумен Віленскага Троіцкага манастыра і мітрапаліцкі афіцыял (з 1713), каад'ютар (намеснік) архіепіскапа полацкага, епіскап віцебскі (1716—19), архіепіскап полацкі (1719—62), мітрапаліт кіеўскі (1748—62). Пашыраў унію ў Полацкай архіепархіі, выкарыстоўваў прымусовыя метады і місіянерскую дзейнасць. Пасля смерці магілёўскага правасл. епіскапа Іераніма Ваўчанскага (1754) перашкаджаў прызначэнню новага правасл. епіскапа. Спрабаваў праз суд вярнуць маёмасць полацкіх манастыроў, перададзеную каралём Стафанам Баторыем езуітам, аднак вял. ўплыў апошніх у дзярж. органах не дазволіў давесці справу да канца. Выступаў супраць пераходу уніятаў на лацінскі абрад. Дамогся выдання папскага дэкрэта аб захаванні ўсх. абраду, але з-за процідзеяння рымска-каталіцкага духавенства і дзярж. улады Рэчы Паспалітай ён не выконваўся. Па ініцыятыве Г. ў Полацкай архіепархіі ўзведзены шэраг каменных храмаў і манастыроў. Ахвяраваў уласныя сродкі на адбудову *Полацкага Сафійскага сабора* ў стылі позняга барока. Пахаваны ў гэтым храме.

*Літ.*: Бантыш-Каменский Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии... Вильна, 1866; Сапунов А.П. Витебская старина. Т. 5, ч. 1. Витебск, 1888; Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. СПб., 1890; Likowski E. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Cz. 1. 2 wyd. Warszawa, 1906; Назарко І.С. Київські і галицькі митрополити. Торонто, 1962; Баўтовіч М. Постаць еўрапейскага маштабу // Царква. 2004. № 1.

***Сяргей Казуля.***

**Грабоўскі** Стафан (24.6.1767, в. Асташына Навагародскага пав.—4.6.1847), военачальнік, адзін з кіраўнікоў *паўстання 1794*. Пасля заканчэння Рыцарскай школы ў Варшаве харужы ў войску ВКЛ. Уваходзіў у склад віленскай масонскай ложы. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1792* падпалкоўнік Г. вызначыўся ў баях пад Мірам і Берасцем; пасля перамогі Таргавіцкай канфедэрацыі далучыўся да падрыхтоўкі паўстання ў Вільні. У час ачышчэння Вільні ад рас. гарнізона (крас. 1794) менавіта падыход атрада пад камандаваннем Г. адыграў вырашальную ролю ў адступленні рас. войск ад ваколіц горада. Прымаў удзел у баях пад вёскамі Солы і Паляны ў складзе паўстанцкага войска ВКЛ пад камандаваннем Я.*Ясінскага*. Удзельнічаў у абароне Вільні ў ліп. 1794. У канцы жн. 1794 узначаліў рэйд 2-тысячнага атрада паўстанцаў на Меншчыну і Магілёўшчыну (Араны—Койданава—Пухавічы—Бабруйск—Любань). Па дарозе да яго далучалася дробная шляхта і сяляне. Пасля Любанскага бою (4.9.1794) вымушаны капітуляваць. Паводле прыгавору Смаленскай


С.**Грабоўскі**.

следчай камісіі высланы ў Кастрамскую губ. Атрымаў волю дзякуючы амністыі паўстанцам ад Паўла І. У час вайны 1812 перайшоў на бок Напалеона. Быў абраны берасцейскім маршалкам, арганізаваў войска ў гэтым павеце. У званні ген.-маёра ўзначальваў Вайсковы к-т у Вільні. Пасля адступлення войск Напалеона змагаўся супраць антыфранц. кааліцыі разам з Ю.*Панятоўскім*. Пад Лейпцыгам трапіў у палон. Дзякуючы падтрымцы А.Чартарыйскага Г. з захаваннем вайсковага звання ўвайшоў у склад вышэйшай адміністрацыі Варшаўскага каралеўства. Быў прыбліжаны Аляксандра І. У 1816 дырэктар Вайсковай камісіі, з 1825 міністр-сакратар Царства Польскага. Бараніў інтарэсы свайго краю. З 1826 генерал дывізіі. Удзельнік рас.-турэцкай вайны 1826—29. У 1832—39 чл. Дзярж. савета Рас. імперыі. З 1839 у адстаўцы.

*Літ.*: Paszkowski F. Dzieje Tadeusza Kościuszki, pierwszego naczelnika polaków. Kraków, 1872; Mościcki H. Generał Jasiński i powstanie Kościuszkowskie. Warszawa etc., 1917; Яго ж. Dzieje porozbiorowe Litwy i Rusi. T. 1. 1772—1800. Wilno, 1913.

***Уладзімір Емяльянчык.***

**Грабоўскія**, шляхецкі род гербаў «Окша» і «Тапор». Вядомы з 15 ст. Паходзілі з Памор'я, мелі маёнткі Грабоўка (адсюль прозвішча) і Канапніца ў Серадзскай зямлі. З 17 ст. ў ВКЛ. Некат. лініі роду атрымалі графскі тытул у Прусіі (1816) і Рас. імперыі (1798, 1836, 1840, 1844, 1887). З 16 ст. вызнавалі кальвінізм, у 18 ст. ўзначальвалі ў Рэчы Паспалітай рух дысідэнтаў (пратэстантаў і праваслаўных) за раўнапраўе. Найб. вядомыя:

Тамаш Мар'ян (?—1770), сын Стафана. Староста дудскі, ген.-маёр (1765), ген.-лейтэнант (1767) войска ВКЛ.

Ян Ежы (?—да 13.2.1789), сын Стафана. Палкоўнік коннага рэгімента (палка) войска ВКЛ, ген.-маёр (1756). Прызначаны каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім камандзірам каралеўскай гвардыі ВКЛ. Ген.-лейтэнант (1775), шэф 5-га рэгімента і ген.-інспектар войска ВКЛ у 1776—83. З 1764 актыўна абараняў дысідэнцкі рух, шукаў падтрымку пры замежных манаршых дварах, выступаў супраць кампрамісаў з кіруючымі каталіцкімі коламі. Пры падтрымцы Расіі 20.3.1767 стаў на чале *Слуцкай канфедэрацыі*. У студз. 1770 разам з братам Міхалам Рыгорам захоплены ў палон барскімі канфедэратамі, але здолеў вызваліцца. З 1769 жанаты з Эльжбетай Шыдлоўскай (каханка, пасля смерці мужа фактычная марганатычная жонка караля).

Міхал Рыгор (каля 1719—8.8.1799), сын Стафана. Шамбялян караля з 1757, палкоўнік коннай гвардыі ВКЛ у 1752—65, шэф рэгімента коннай гвардыі ў 1765—85, ген.-маёр 1-й дывізіі ў 1777—83, ген.-лейтэнант у 1783, пасля ў адстаўцы. Разам з братамі Паўлам і Янам Ежы ўдзельнічаў у стварэнні дысідэнцкіх Тарунскай і Слуцкай канфедэрацый. Ваяваў на Украіне супраць барскіх канфедэратаў і гайдамакаў. У 1770 разам з братам Янам Ежы трапіў у палон да канфедэратаў. Пасол на сойм 1784. У 1798 у Расіі атрымаў графскі тытул.

Ежы Францішак (?, мяст. Свянцяны, ахрышчаны 27.4.1756, мяст. Койданава—пасля 1801), сын Яна Ежы. Ген.-інспектар войска ВКЛ у 1783—89, ген.-лейтэнант (1789). Удзельнік падрыхтоўкі *паўстання 1794*, карыстаўся даверам Т.Касцюшкі. Удзельнік бітвы пад Соламі 15.6.1794, абароны Вільні ў ліп. 1794. З кастр. 1794 камандзір Наднарвенскай дывізіі. 1.11.1794 здаўся прускім войскам, быў зняволены ў Расіі, вызвалены Паўлам І. Выехаў у Парыж, дзе выступаў за стварэнне «літоўскіх» легіёнаў з былых вайскоўцаў ВКЛ. У 1798—99 галоўнакамандуючы войскамі Рымскай рэспублікі. У 1801 прэтэндаваў на пасаду камандзіра Наддунайскага легіёна пасля адстаўкі К.О.Князевіча. Далейшы лёс невядомы.

Павел Ян (1759—4.11.1794), сын Яна Ежы. У 1771—75 вучыўся ў Варшаўскай Рыцарскай школе. Староста ваўкавыскі з 1783, шэф 5-га рэгімента пяхоты ВКЛ з 1783, ген.-інспектар войска ВКЛ у 1789—91, ген.-лейтэнант (1794); пасол на сойм 1784, Чатырохгадовы сойм 1788—92. Чл. «Т-ва сяброў Канстытуцыі 3 мая». Удзельнічаў у вайне з Расіяй 1792. У паўстанні 1794 камандаваў войскамі ў складзе карпусоў А.Хлявінскага і К.Серакоўскага, з 5.8.1794 камандзір дывізіі. Дзейнічаў на Палессі, праз Гародню рушыў на Варшаву. Загінуў пры абароне Прагі (прадмесце Варшавы).

Павел (?—5.10.1777), сын Тамаша Мар'яна. Палкоўнік войска ВКЛ. У 1777 уступіў добраахвотнікам у англ. армію ў Паўн. Амерыцы, што ваявала супраць ЗША, ад'ютант ген. Г.Клінтана. Загінуў у баі.

Міхал (каля 1773—17.8.1812), сын фармальна Яна Ежы, фактычна — Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Вучыўся ў Вільні і Страсбургу. З 1783 у войску ВКЛ. Удзельнічаў у вайне 1792 з Расіяй. З 1794 ген.-ад'ютант караля. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай суправаджаў Панятоўскага ў Гародні і Пецярбургу. У 1807 далучыўся да арміі Напалеона, генерал брыгады (1808). У вайну 1812 камандаваў 1-й брыгадай 18-й дывізіі «Вял. арміі». Часовы губернатар Магілёва. Загінуў у баі за Смаленск.

Міхал (?—9.7.1822), сын Тамаша Мар'яна. Шамбялян караля і канюшы ВКЛ з 1791. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1794, быў звязаны з Я.Ясінскім. Чл. *Найвышэйшай Літоўскай рады*. У 1812 па прапанове Напалеона арганізоўваў Беластоцкі дэпартамент у складзе адроджанага ВКЛ. Пасля ў эміграцыі.

Зыгмунт Ксаверый (?—13.12.1808), сын Тамаша Мар'яна. Шамбялян, крайчы ВКЛ у 1784—93, пасол на Чатырохгадовы сойм з 1790. Удзельнічаў у дысідэнцкім руху. У час праўлення Таргавіцкай канфедэрацыі (1792—93) чл. *Пастаяннай Рады* (інфармаваў пра яе дзейнасць эмігрантаў-патрыётаў). З яго сыноў Аляксандр быў генералам рас. арміі, загінуў у 1812 у бітве з французамі пад Красным; Ксаверый — камергерам, маршалкам шляхты Ваўкавыскага пав.

Стафан (1767—1847), сын Тамаша Мар'яна, гл. *Грабоўскі* С.

***Валерый Пазднякоў.***

**Градоўскі** Францішак (каля 1545—95), дзяржаўны дзеяч ВКЛ, паэт-лацініст. Паходзіў са шляхецкай сям'і, якая ў пач. 16 ст. перасялілася з Малой Польшчы ў Жамойць; кальвініст. З 1565 вучыўся ў Вітэнбергскім ун-це, атрымаў гуманістычную адукацыю. У 1578 і 1580 прызначаўся соймам паборцам падаткаў у



Ковенскім пав. Служыў сакратаром каралёў Стафана Баторыя і Жыгімонта III Вазы, з 1588 маршалак гаспадарскі. У 1588 дэлегат ад шляхты ў пасольстве саслоўяў ВКЛ да новаабранага караля Жыгімонта III, якое засведчыла прызнанне ў ВКЛ яго абрання. У 1589 пасол на сойм ад Троцкага ваяв. Напэўна, удзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82*, у рэйдзе 1581 польнага гетмана К.*Радзівіла* Перуна з-пад Пскова ў глыб Расіі. Напісаў на лац. мове паэму «Апісанне маскоўскага паходу князя Крыштофа Радзівіла» («Hodoeporicon Moschicum Ill. Principis ac D.D. Christophori Radivilonis», 2 выд. Вільня, 1582), у якой услаўляюцца выправа 1581, ваенныя подзвігі К.Радзівіла і яго бацькі — М.*Радзівіла* Рудога, пераможцы ў *бітве на Уле 1564*. Паэма Г. стала ўзорам для аналагічных эпічных твораў Я.*Каханоўскага*, А.*Рымшы* і Я.*Радвана*.

*Літ.*: Кавалёў С.В. Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мн., 1993.

***Валерый Пазднякоў.***

**Граіцкі** (Градзіцкі, Groicki, Grodzicki) Бартламей (каля 1534, г. Жэшаў, Польшча—1605), польскі юрыст. З мяшчанскай сям'і. З 1550 вучыўся ў Кракаўскай акадэміі, стаў знаўцам рымскага і нямецкага права. Пісар вышэйшага суда нямецкага права на Кракаўскім замку ў 1559—63 і 1573—89, у 1563—73 пісар кракаўскай мытнай каморы. Аўтар першых юрыд. дапаможнікаў на польск. мове. У 1558 выдаў кнігі «Артыкулы магдэбургскага права, якое завецца Спекулюм Саксонум» і «Устава аплаты ў судах у магдэбургскім праве», у 1559 — «Парадак гарадскіх судоў і спраў магдэбургскага права», дзе сабраны нормы *магдэбургскага права*, што дзейнічалі ў Польшчы ў 16 ст. У 1567 выдаў паказальнікі да сваіх ранейшых прац («Рэестр...» і «Тытулы...»), якія аблягчалі карыстанне імі ў судах. У 1559 выдаў кнігу «Парадак у судах у справах, што датычаць пакарання смерцю», а таксама вольны, скарочаны і прыстасаваны да польскіх умоў пераклад статута імператара Карла V 1532 «Гэты парадак выбраны з цэсарскіх законаў...». Працы Г. сталі падручнікамі гар. права і разам з працамі П.*Шчэрбіча* шырока выкарыстоўваліся ў гар. судах Беларусі да 18 ст. як дзеючыя кодэксы магдэбургскага права. Яны шмат разоў перавыдаваліся ў 16—18 ст., у выглядзе зборніка выдадзены ў берасцейскай друкарні С.Мурмеліуса ў 1560. Навук. выданне прац. Г. ажыццявіў у Варшаве ў 1953—59 К.Караный.

*Літ.*: Тарановский Ф.В. Обзор памятников магдебургского права западнорусских городов литовской эпохи: Ист.-юридич. исслед. Варшава, 1897.

***Валерый Пазднякоў.***

**грамада**, абшчына ў ВКЛ, устойлівая форма сацыяльнай арганізацыі, якая характарызуецца пэўнай ступенню калектыўнай уласнасці на сродкі вытворчасці, асаблівасцямі працэсу вытворчасці і сацыяльна-грамадскага жыцця. Узнікла як арганізацыя крэўных родзічаў (родавая, сямейная абшчына) у першабытнаабшчынную эпоху. Паступова трансфармавалася ў суседскую (тэрытарыяльную) абшчыну, дзе кожная сям'я атрымлівала права карыстацца асобным зямельным надзелам, але напачатку не мела магчымасці распараджацца ім. У ВКЛ Г. звычайна аб'ядноўвала насельніцтва асобнай вёскі. Некалькі Г. звычайна ўваходзілі ў склад больш шырокай арганізацыі — *воласці*. У шэрагу рэгіёнаў, асабліва ў гаспадарскіх (вялікакняжацкіх) уладаннях на У Беларусі, Г. адыгрывала значную ролю ў арганізацыі сял. землекарыстання і выплаты феад. рэнты. Сяляне гаспадарскіх падняпроўскіх і падзвінскіх валасцей самастойна збіралі даніну, якая накладвалася на валасць цалкам, і здавалі яе ў вялікакняжацкі скарб. У 1-й пал. 16 ст. Г., як правіла, не праводзіла перадзелаў зямлі. Звесткі пра тое, што ў Г. «розрубы чинили и меты метали», адносяцца да раскладкі павіннасцей. Лясы, выганы, пусткі і інш. заставаліся ў агульным карыстанні. На чале Г. стаяў *старац*, які кіраваў раскладам даніны па асобных гаспадарках, яму дапамагалі *дзесяцкія*. Кіраўнікі Г. выбіраліся яе членамі, але зацвярджаліся вярхоўным уласнікам зямлі. З пач. 16 ст. члены Г. («мужы», «валашчане») за захаванне за імі права выбару старца абавязаны былі плаціць феадалу-ўласніку т.зв. «старчэнне». У некат. воласці поруч са старцамі прызначаліся і вялікакняжацкія *намеснікі*, да сярэдзіны 16 ст. яны былі ўжо амаль ва ўсіх гаспадарскіх валасцях. У сувязі з тым, што Г. перашкаджала феадалам павялічваць павіннасці, яны імкнуліся прынізіць яе ролю. Таму ў некат. месцах службовых асоб Г. выбіралі не сяляне, а прызначала феад. адміністрацыя, што вяло да ператварэння іх з абаронцаў сялян у выканаўцаў волі пана. Г. паступова адлучалі ад раскладкі і збору даніны. Так, у 1547 Жыгімонт Стары ў граматах насельніцтву Прапойскай і Чачэрскай валасцей абвясціў: «Ино што ся дотычит мыта и выбираня старца, то ест реч наш[а] г[оспо]д[а]рьская, а не ваша хлопская». Сяляне змагаліся за свае правы і працягвалі выбіраць старцаў, гандлявалі ў сваіх сёлах з праезджымі купцамі. Адстойвалі яны і спрадвечнае права Г. збіраць з праезджых гандляроў на сваю карысць пошліну — «мыта вадзяное». Калі феадалам нават удавалася абмежаваць самастойнасць Г., яна па традыцыі працягвала рэгуляваць парадак карыстання абшчыннымі ўгоддзямі, выплату падаткаў, чыніла *копны суд*.

У ходзе аграрнай рэформы сярэдзіны 16 ст. роля Г. зменшылася, асабліва ў тых рэгіёнах, дзе была праведзена *валочная памера* і ўстаноўлены фіксаваныя павіннасці з надзелаў. Там, дзе зямля не была падзелена на валокі, павіннасці па-ранейшаму ўскладаліся на Г. Яе роля асабліва павялічвалася ў часы войнаў, эпідэмій, ва ўмовах гасп. разрухі, калі землеўласнік не мог сам аднавіць ці пашырыць гаспадарку. У такіх выпадках землі, у т.л. запусцелыя, перадаваліся Г., якая абавязвалася распрацаваць іх і, абапіраючыся на кругавую паруку, выплаціць усе павіннасці. Разам выступалі сяляне Г. супраць феад. ўціску: звярталіся са скаргамі, выстаўлялі патрабаванні аб паляпшэнні свайго становішча, узнімаліся на ўзброеную барацьбу. У 18 ст. Г. яшчэ карысталася пэўнай самастойнасцю, у т.л. правам раскладкі павіннасцей (напр., у Горвальскім, Стрэшынскім і Сожыцкім уладаннях Віленскага біскупства), хаця пры гэтым абавязкова павінны былі прысутнічаць прадстаўнікі адміністрацыі. Пра традыцыі Г. сведчыла захаванне ў 2-й пал. 18 ст. права выбару старца (у Барысаўскім і Крычаўскім староствах). Аднак яе роля паніжалася, і паступова яна ператваралася ў залежны ад феадала орган, з дапамогай якога ён праводзіў сваю эканам. палітыку. Разам з тым менавіта Г. была грамадскім інстытутам, у рамках якога праходзіла дзейнасць асноўнай масы насельніцтва.

***Валянцін Голубеў.***

**«Грамата, пісаная да святога Пятра»**, беларускі ананімны празаічны твор 2-й пал. 17 ст. Гл. *«Ліст да святога Пятра»*.



**Грош** ВКЛ: 1 – Жыгімонт І Стары, 1536; 2 і 3 – Жыгімонт ІІ Аўгуст, 1546 (чаканены па польскай манетнай стапе), 1555; 4 – Стафан Баторый, 1580; 5 – 8 – Жыгімонт ІІІ Ваза, 1607, 1608, 1612, 1627; 9 – Ян ІІ Казімір Ваза, 1652.

**графства**, неафіцыйная назва пэўных вялікіх магнацкіх маёнткаў на тэр. ВКЛ да канца 18 ст. Г. фактычна былі тэр. адзінкамі, падпарадкаванымі аднаму магнату з асобным апаратам кіравання, і як маёнткі перадаваліся ў спадчыну ў родзе ўладальніка або яго сваякам. Назвы Г. звязаны з графскімі тытуламі, якія атрымлівала арыстакратыя ад герм. імператара і якімі дазвалялася карыстацца ў ВКЛ. У 1555 Юрый Шчаснавіч Іллініч атрымаў ад герм. імператара тытул графа «на Міры», а яго маёнткі ў Міры і наваколлі сталі называцца Мірскім Г., якое пазней перайшло да Радзівілаў. У 1568 Ян Геранім Хадкевіч атрымаў тытул графа «на Шклове, Мышы, Быхаве і Глуску», якія сталі аднайменнымі графствамі. Ляхавіцкае Г. было ў Хадкевічаў, потым у Сапегаў. У 1568 Васіль Тышкевіч стаў графам «на Лагойску і Бярдзічаве». Радзівілы, побач з тытулам князёў, мелі і графскі тытул «на Міры, Шыдлоўцы, Койданаве, Копысі, Заблудаве, Кейданах, Крожах і Белай», Сапегі — «на Чарэі, Дуброўне і Горы-Горках». Усе гэтыя маёнткі адпаведна называліся Г.

*Літ.*: Dworzaczek W. Genealogia. Warszawa, 1959.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Гродна,** горад у Рэспубліцы Беларусь, цэнтр вобласці і раёна, гл. *Гародня*.

**гродскі суд**, павятовы суд для шляхты, мяшчан і сялян у ВКЛ у 16—18 ст. Разглядаў справы пра найб. цяжкія крымінальныя злачынствы асоб, якія былі затрыманы на месцы злачынства («па гарачым учынку») ці не паспелі схавацца ў сваім доме; цывільныя справы аб выпатрабаванні чэлядзі нявольнай і залежных сялян. Суд сведчыў здзелкі, копіі дакументаў, забяспечваў доказы, вёў актавыя кнігі, выконваў прыгаворы і рашэнні інш. судоў. Знаходзіўся першапачаткова ў замку (гродзе), адкуль і пайшла назва. Дзейнічаў у 2 складах — вышэйшым (як 1-я і 2-я інстанцыі) і ніжэйшым (толькі 1-я інстанцыя). Гал. суддзёй звычайна быў ваявода, староста або дзяржаўца. Калі гал. суддзя адсутнічаў, яго замяняў падстараста. У пасяджэннях суда ўдзельнічаў гараднічы. У вышэйшы Г.с. уваходзілі гал. суддзя і прадстаўнікі феадалаў. Ніжэйшы складаўся з намесніка гал. суддзі, шляхціцаў і пісара. Рэгламент работы суда ўключаны ў артыкулы 4-га раздзела Статута ВКЛ 1588. Суддзі абавязкова павінны былі ведаць бел. мову, інакш не выбіраліся шляхтай на пасаду.

*Літ.*: Лаппо И. Гродский суд в Великом Княжестве Литовском в XVI столетии // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1908. № 1.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**грош** (чэшск. groš, стараням. Grosch ад лац. вульг. grossus denarius цяжкі, тоўсты дэнарый), 1) адзінка грашовага ліку (фракцыя рубля, капы і злотага) у ВКЛ і Польскім каралеўстве, з 1569 — у федэратыўнай Рэчы Паспалітай; таксама ў інш. дзяржавах. Г. літоўскі, Г. ліку літоўскага, Г. літоўскае манеты, Г. пенязны — Г. у 10 пенязяў ВКЛ, адпавядаў рэальнай сярэбранай манеце з 1535, але лік на Г. літоўскія з'явіўся раней. Г. польскі, Г. ліку польскага, Г. польскае манеты, Г. лядскі, Г. вузкі — у 16 ст. Г. у 8 пенязяў ВКЛ, адкуль у 16 ст. назва асьмак. Польскі Г. адпавядае рэальнай сярэбранай манеце з 1526 у $^4/_5$ Г. літоўскага, але розніца курсу закладзена раней у паўгрошах і дэнарыях, па дыяметры меншы за Г. літоўскі (адпаведна 24 мм і 26 мм). З 1578 стапа літ. і каронных манет уніфікавана. У апошняй трэці 17—пач. 18 ст. асьмак — канвергентна ўзніклы тэрмін для Г. ў 8 медных солідаў. 2) Сукупнае паняцце або гал. частка прэпазітыўнай канструкцыі для апісання індывідуальнага аб'екта: Г. пляскаты — пазначэнне манеты Г. (біта ў 16 ст.) у адрозненне ад Г. — лікавай адзінкі; Г. гатовыя (Г. рукамі адлічоныя, рукаемныя, рукадайныя, паднесеныя) — пазначэнне наяўных грошай у 16—1-й пал. 18 ст. (напр., «отдати... готовыми грошми, а ни жадным товаром ани фантами», 1541); Г. патройны і інш. — складаная частка пазначэнняў наміналаў манет, большых за Г. 3) Сярэбраная і медная манета Еўропы 12—20 ст. наміналам у 1 Г.: найб. па колькасці серабра высакапробная сярэбраная манета 12—15 ст. Г. у 4, 6, 12 дэнарыяў вядомы з канца 12 ст. ў гарадах Італіі, у 12 дэнарыяў — з 1286 у франц. г. Тур, які і стаў метралагічным узорам пазнейшых Г. Еўропы, з 14 ст. ў Чэхіі (*грош пражскі*), Венгрыі (Г. угорскі), Саксоніі (Г. мейсенскі), Польшчы (Г. кракаўскі); нізкапробная сярэбраная манета ВКЛ і літоўская Рэчы Паспалітай, якая білася ў Вільні ў 1535—36, 1545—46, 1555—57, 1559, 1580—81, 1607—15, 1625—27, 1652 па стапе каронных Г. у 1546—48 і 1566—68, у Тыкоціне ў 1566; нізкапробная сярэбраная манета Польскага каралеўства і каронная Рэчы Паспалітай, якая білася на дзярж. манетных дварах у Кракаве ў 1526—29, 1545—48, 1600—01, 1603—17, Олькушы ў 1579—82, 1593—94, 1600—01, Познані ў 1597—98, Быдгашчы ў 1596, 1598—99, 1613—14, 1623—25, 1627, 1650, Любліне ў 1597—1601, Усхове ў 1650; нізкапробная сярэбраная манета гар. манетных двароў Рэчы Паспалітай у Гданьску ў 1530—35, 1537—40, 1548, 1556—58, 1577—79, 1614, 1623—27, Эльблёнгу ў 1533—35, 1538—

40, Рызе ў 1581—84, 1616—17; **срэбраная манета** 15—18 ст. іншаземная (у першую чаргу шматлікіх княстваў Зах. Памор'я і Сілезіі) і звязаных з Рэччу Паспалітай дзярж. адзінак (напр., Прускага герцагства 1529—35, 1537—48, 1550—51, 1558, 1569—70, 1586—87, 1589, 1594—97, 1612—15, 1625, Курляндскага герцагства 1762—64), якая была ў абарачэнні на землях Рэчы Паспалітай; **нізкапробная срэбраная уніфікаваная манета** Рэчы Паспалітай, якая білася ў Варшаве ў 1766—68, 1772—82, і медная — у Губне ў 1752—55, 1758, Кракаве ў 1765—68, Варшаве ў 1765—95.

*Літ.*: Hutten-Czapski E. Catalogue de la collection des médailles et monnaies polonaises. Vol. 1—5. Paris; St.Pétersbourg; Cracovie, 1871—1916; Gumowski M. Podręcznik numizmatyki polskiej. Kraków, 1914; Яго ж. Monety polskie. Warszawa, 1924; Nohejlová-Pratová E. Základy numismatiky. Praha, 1975; Котляр М.Ф. Нариси історії обігу й лічби монет на України XIV—XVIII ст. Київ, 1981; Michelbertas M. Lietuvos numizmatikos įvadas. Vilnius, 1989; Беляков А.С. Нумизматика // Введение в специальные исторические дисциплины. М., 1990; Kopicki E. Skorowidz pieniędzy polskich i z Polską związanych. Cz. 1—3. Warszawa, 1990—92; Рябцевич В.Н. Денежный счет на рынках Великого княжества Литовского в XVI в. // Всероссийская нумизматическая конференция: Тез. докл. СПб., 1994.

***Іван Сінчук.***

**грош пражскі** (ад лац. легенды grossi pragenses тоўстыя пражскія), сярэбраная манета Багемскага (Чэшскага) каралеўства ў 1300—1547. Г.п. пачалі вырабляць без пазначэння наміналу і даты на «Італьянскім двары» ў Кутнай Горы (сярэбранае радовішча за 70 км ад Прагі) пад кіраўніцтвам фларэнцийскіх майстроў на новым цэнтралізаваным манетным двары дзяржавы на ўзор гротурнуа (манеты г. Тур у Францыі) і больш лёгкіх гроса італьянскіх гарадоў замест тонкіх і лёгкіх дэнарыяў. Маса Г.п. ад 3,5—3,8 г у пач. 14 ст. да 2,7—2,9 г у пач. 15 ст. Г.п. вылучаецца нязменным на працягу ўсяго свайго існавання манетным тыпам (характарам кампаноўкі легенд і выяў у полі манеты): на аверсе — выява кароны, вакол яе ў 2 радкі кальцавая легенда, на рэверсе — выява чэшскага льва і кальцавая легенда. Г.п. разменьваўся на парвусы (ад лац. легенды prag[enses] parvi пражскія малыя, $^{1}/_{12}$ гроша). За



**Грош пражскі**. Чэхія. Вацлаў II. 1300—05.

межамі Чэхіі пашыраны ў асноўным у Польскім каралеўстве, ВКЛ, у ням. княствах выключна манеты 1300—1419 Вацлава II [1297—1305], Яна I [1310—46], Карла I [1346—78], Вацлава IV [1378—1419]. На землях ВКЛ Г.п. з'явіўся і заняў манапольнае становішча ў пач. 14 ст., у нумізматыцы Беларусі перыяд 14—15 ст. вядомы пад назваю перыяду пражскага гроша. Г.п. меў курс 12—15 пенязяў у 1-й пал. 16 ст., трапляецца нават у скарбах 17 ст. У бел. пісьмовых крыніцах называўся проста грошам або з удакладненнем чэшскі, шырокі стары, чэшскаю манетаю, у наўгародскіх і пскоўскіх крыніцах пач. 15 ст. вядомы як грош літоўскі. Гусіцкія войны 1419—36 спынілі да 1453 выраб Г.п., эмісія аднавілася ў невял. колькасцях у Кутнай Горы, з 1519 таксама ў Яхімава (новае сярэбранае радовішча за 120 км ад Прагі) і з 1539 у Празе (з серабра радовішча Скаліце за 40 км ад Прагі). У 1528 на манетах Г.п. з'яўляецца дата. У 1-й пал. 16 ст. грошы (у т.л. Г.п.) як асн. адзінка грашовага абарачэння пацеснены новымі значна больш цяжкімі манетамі — *талерамі* і іх фракцыямі.

*Літ.*: Smolik J. Pražské groše a jich dily (1300—1547). Praha, 1894; Nohejlová-Pratová E. Základy numismatiky. Praha, 1975; Mękicki J. Krótka historia grosza praskiego (1300—1547) // Biuletyn numizmatyczny. 1986. № 9—12; Стралец М.В., Сінчук І.І., Левічава Н.Д. Малавядомыя старонкі гісторыі Беларусі: перыядызацыя, духоўная і матэрыяльная культура, манеты: (Матэрыялы ў дапамогу настаўнікам сярэдніх школ). Брэст, 1991.

***Іван Сінчук.***

**Грунвальдская бітва 1410**, вырашальная бітва *Вялікай вайны 1409—11* паміж ВКЛ і Польшчай з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з другога. Адбылася 15.7.1410 каля населеных пунктаў Грунвальд і Таненберг на тэр. ордэна (цяпер Вармінска-Мазурскае ваяв., Польшча). З'явілася гал. этапам вайны, план якой быў распрацаваны польскім каралём Ягайлам і вял. князем літоўскім Вітаўтам на *Берасцейскай сустрэчы 1409*. У ліп.



**Грунвальдская бітва 1410**.
Гравюра з «Хронікі ўсяго свету» М.Бельскага. 16 ст.

БІТВА пад ГРУНВАЛЬДАМ 15.VII.1410 г.




Аўтар Ю.М.Бохан

1410 войскі саюзнікаў (каля 30—40 тыс. чал.) злучыліся ў раёне Казініц і рушылі на сталіцу ордэна Мальбарк (Марыенбург). 15 ліп. яны былі вымушаны прыняць бой на адкрытай мясцовасці з крыжацкім войскам (каля 15—20 тыс. чал.). Войска крыжакоў (уваходзілі таксама рыцары з Германіі, Англіі, Францыі, Швейцарыі, Чэхіі і інш. краін) складалася з 51 харугвы, войска ВКЛ і Польшчы (уваходзілі таксама татары саюзнага Вітаўту хана Джэлал-ад-Дзіна і наёмнікі) — з 90 харугваў, 40 з іх належалі ВКЛ (Берасцейская, Ваўкавыская, Віцебская, Гарадзенская, Дарагічынская, Ковенская, Лідская, Мсціслаўская, Новагародская, Пінская, Полацкая, Смаленская, Старадубская, Троцкая і інш.). Крыжакі занялі больш зручную для атакі пазіцыю на ўзвышшы. Перад баявымі парадкамі крыжакоў стаялі гарматы і арбалетчыкі. Войскі саюзнікаў размяшчаліся 3 лініямі на беразе р. Марша. Бітва пачалася атакай 1-й лініі крыла Вітаўта і змешчаных на яе правым флангу татараў. Атакуючых сустрэлі гарматным агнём, потым супраць іх рушыла левае крыло крыжацкага войска, сітуацыя схілілася на іх карысць. Верныя сваёй улюбёнай тактыцы, татары арганізавалі прытворныя ўцёкі. Услед за імі пабегла 1-я лінія войска ВКЛ, акрамя 3 харугваў са Смаленскай зямлі (Мсціслаўскай, Смаленскай і няпэўнай прыналежнасці) на чале з мсціслаўскім кн. Лугвенам. Націск крыжакоў спынілі 2-я і 3-я лініі войск Вітаўта. Адначасова 1-я лінія палякаў атакавала правае крыло крыжакоў. Атака была няўдалая, крыжакі ледзь не захапілі вял. каралеўскі сцяг. Становішча выправілася з увядзеннем 2-й польскай лініі. Пасля 6 гадзін напружанай бітвы сілы ордэна пачалі адкочвацца да свайго лагера. Імкнучыся пераламіць ход бітвы, вял. магістр ордэна Ульрых фон Юнгінген павёў у наступленне апошнія 16 харугваў рэзерву. Яны праралі фронт і выйшлі ў тыл польскага войска, але былі акружаны і знішчаны, загінуў і сам вял. магістр. У рукі саюзнікаў трапілі ўмацаваны лагер крыжакоў і ўсе іх сцягі. Паражэнне Тэўтонскага ордэна ў Г.б. абумовіла вынік вайны ў цэлым. Паводле *Тарунскага міру 1411* ва ўладанне Польшчы і ВКЛ адышлі Добжынская і Жамойцкая землі. Магутнасць ордэна была падарвана.

*Літ.*: Длугош Я. Грюнвальдская битва: [Пер. с лат.]. М.; Л., 1962; Ekdahl S. Die Schlacht bei Tannenberg 1410: Quellenkritische Untersuchungen. Bd. 1. Berlin, 1982; Kuczyński S.M. Bitwa pod Grunwaldem. Katowice, 1987; Nadolski A. Grunwald: Problemy wybrane. Olsztyn, 1990; Jučas M. Žalgirio mūšis. 2 leid. Vilnius, 1999.

***Юрась Бохан.***

**Груша** Аляксандр Іванавіч (н. 15.1.1973, г. Гродна), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (2001). Скончыў Бел. дзярж. пед. ун-т (1996). З 1999 у Ін-це гісторыі Нац. АН Беларусі (з 2004 старшы навук. супрацоўнік). Даследуе гісторыю дзярж. установаў ВКЛ, методыку выдання гіст. крыніц, палеаграфію, кадыкалогію. Аўтар-складальнік кнігі «Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых кірылічных крыніц у Беларусі (XIII—XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага)» (2003). Падрыхтаваў да друку і выдаў кнігі «Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 44: Кніга запісаў 44 (1559—1566)» (2001), «Перапіс войска Вялікага княства Літоўскага 1528 г. Метрыка Вялікага княства Літоўскага. Кніга 523. Кніга Публічных спраў 1» (2003, з М.А.Вайтовічам, М.Ф.Спірыдонавым). Прэмія Нац. АН Беларусі для маладых вучоных за цыкл прац па методыцы навук. выдання гіст. крыніц і публікацыю кніг Метрыкі ВКЛ (2003).

*Тв.*: Да некаторых праблем гісторыі Метрыкі ВКЛ (першыя гістарычныя назвы; па матэрыялах кніг Метрыкі ВКЛ першай паловы XVI ст.) // Інфармацыйнае забеспячэнне навукі: праблемы, пошукі, рашэнні. Мн., 2000; Інфармацыйныя элементы фармуляра дакумента канцылярыі ВКЛ 40-х гадоў XV—першай паловы XVI стст. // Бел. археаграф. штогоднік. Мн., 2001. Вып. 2; Персанал канцылярыі Вялікага княства Літоўскага 40-х гадоў XV—першай паловы XVI ст. // Весці Бел. дзярж. пед. ун-та. 2001. № 1; Службовы склад і структура канцылярыі ВКЛ 40-х гадоў XV—першай паловы XVI ст. // METRICIANA. Мн., 2001. Т. 1; Функцыі канцылярыі Вялікага княства Літоўскага (40-я гады XV—першая палова XVI ст.) // Весці Нац. АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 2001. № 3; Невядомая грамата Фёдара Карыятавіча за 1391 г. // Бел. гіст. агляд. 2001. Т. 8. Сш. 1—2; Канцылярыя ВКЛ 40-х гг. XV—першай паловы XVI стст. // Бел. гіст. часопіс. 2002. № 2/3; З вопыту падрыхтоўкі да выдання кнігі Метрыкі ВКЛ 44 (1559—1566) // Бел. археаграф. штогоднік. Мн., 2002. Вып. 3.

**Грушэўскі** (Грушевський, Грушевский) Аляксандр Сяргеевіч (12.8.1877, г. Стаўрапаль—1943?), украінскі гісторык, архівіст, этнограф, літаратуразнавец. Брат М.С.*Грушэўскага*. Магістр рас. гісторыі (1904), праф. (1918). Скончыў Ун-т св. Уладзіміра ў Кіеве (1899). У навук. камандзіроўцы даследаваў дакументы ў музеях, архівах і б-ках Аўстрыі, Германіі, Расіі. У 1907—08 прыват-дацэнт Новарасійскага ун-та ў Адэсе, у 1909—10 — Маскоўскага, у 1910—17 — Пецярбургскага ун-та. З 1917 на Украіне, кіраўнік Бібліятэчна-архіўнага аддзела пры Дэпартаменце мастацтваў Генеральнага сакратарыята асветных спраў Укр. Цэнтр. Рады (1917—18), прыват-дацэнт, пасля праф. Укр. нар. ун-та, кіраўнік яго бібліятэчнай камісіі (1917—18), дырэктар Педагагічнага музея Кіеўскай навучальнай акругі (1917—18), дырэктар Пастаяннай камісіі па складанні гіст.-геаграфічнага слоўніка укр. зямель (з 1919), нам. кіраўніка Гіст. секцыі Усеўкраінскай АН (1921—24), выкладаў у Кіеўскім гіст. т-ве (1920—21) і Вышэйшым ін-це асветы імя М.Драгаманава, кіраўнік Секцыі ўкр. права Прававога т-ва, чл. Археалагічнага камітэта пры Усеўкраінскай АН (з 1921), правадзейны чл. Навукова-даследчай кафедры гісторыі Украіны (1922—23), кіраўнік Секцыі сац.-паліт. і эканам.



гісторыі Навукова-даследчай кафедры гісторыі Украіны (з 1925), правадзейны чл. Археаграфічнай камісіі. У 1933 звольнены з пасад у АН, у 1938 арыштаваны па абвінавачванні ва ўдзеле ва «ўкр. нацыяналістычнай тэрарыстычнай арг-цыі». У 1939 засуджаны да 5 гадоў ссылкі, якую адбываў у Іртышскім р-не Паўладарскай вобл. (Казахстан), дзе, відаць, і памёр. Працы па гісторыі турава-пінскіх зямель 11—16 ст., гар. праблематыкі і гіст. геаграфіі ВКЛ, архівістыцы.

*Тв.*: Пинское Полесье. Ч. 1. Очерк истории Турово-Пинского княжества XI—XIII вв. Киев, 1901; Пинское Полесье XIV—XVI вв.: Ист. очерки. Туров, Городок и Пинск в составе В.К.Литовского. Пинское староство к. Боны, XIV—XVI вв. Киев, 1903; К характеристике взглядов «Истории Руссов» // Известия отделения русского языка и словесности. 1908. Т. 13, кн. 1; Повинность городовой работы в Великом княжестве Литовском // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1914. № 11; Города В. Княжества Литовского в XIV—XVI вв.: Старина и борьба за старину. Киев, 1918; Луцьке міщанство в XVI в. // Історично-географічний збирник. Київ, 1927. Т. 1.

*Літ.*: Верба І.В. Родина Грушевських в українській історичній науці 1920-х рр. // Український історичний журнал. 1996. № 5; Матяш І. Особа в українській архівістиці: Біографічні нариси. Київ, 2001.

***Валерый Пазднякоў.***

**Грушэўскі** (Грушевський) Міхаіл Сяргеевіч [17(29).9.1866, г.Холм, цяпер Хэлм, Польшча—25.11.1934], украінскі гісторык, палітычны і дзяржаўны дзеяч. Акад. Усеўкраінскай АН (1923) і АН СССР (1929). Брат А.С.*Грушэўскага*. Скончыў Тыфліскую гімназію (1886), гіст.-філалагічны ф-т Кіеўскага ун-та (1890). Вучань У.Б.*Антановіча*. У 1894—1914 узначальваў кафедру ўсеагульнай гісторыі Львоўскага ун-та. Рэарганізатар і кіраўнік Навук. т-ва імя Шаўчэнкі ў Львове (1897—1914), гал. рэдактар яго «Запісак» (з 1895). Заснавальнік (з І.Франко) і рэдактар часопіса «Літературно-наукови вісник» («Літаратурна-навуковы веснік», 1898). Адзін з заснавальнікаў Галіцка-ўкр. нац.-дэмакр. партыі (1899). У 1906 у Пецярбургу, удзельнічаў у працы ўкр. фракцыі 1-й Дзярж. думы, укр. клуба і часопіса «Украинский вестник». З 1907 у Кіеве, заснавальнік Укр. навук. т-ва, рэдактар часопіса «Украіна». У 1914 арыштаваны як «мазепінец» і «аўстрафіл», у 1915 высланы ў Сімбірск. Вызвалены па хадайніцтве акад. А.А.Шахматава, пераведзены ў Казань, у 1916 — у Маскву пад нагляд паліцыі. Пасля Лют. рэвалюцыі 1917 у Кіеве. У сак. 1917 узначаліў Укр. Цэнтр. Раду, увайшоў ва Укр. партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў. 29.4.1918 абраны прэзідэнтам Укр. Нар. Рэспублікі, выступаў за незалежную ўкр. дэмакр. дзяржаву. Пасля гетманскага перавароту (1919) у эміграцыі. Заснаваў Укр. сацыялагічны ін-т (1919, Прага, Вена), выдаваў час. «Борітесь — Поборете» («Змагайцеся — Адолееце», 1920—22, Вена). У 1922 адышоў ад паліт. дзейнасці, у 1924 вярнуўся ў Кіеў, дзе разгарнуў шырокую навук.-арганізац. дзейнасць. У 1931 арыштаваны, абвінавачаны ў кіраўніцтве т.зв. «Украінскім нацыянальным цэнтрам». Вызвалены з правам жыць і працаваць у Маскве. Памёр у Кіславодску.

Г. ўпершыню ва ўкр. гістарыяграфіі стварыў цэльную працу па гісторыі Украіны да сярэдзіны 17 ст., у т.л. ў перыяд яе ўваходжання ў склад ВКЛ —«Гісторыя Украіны-Русі» («Історія України-Руси», т. 1—10, Львоў—Кіеў, 1898—1936). У ёй, а таксама ў працах «Нарыс гісторыі Кіеўскай зямлі ад смерці Яраслава да канца XIV ст.» («Очерки истории Киевской земли от смерти Ярослава до конца XIV в.», Кіеў, 1891), «Нарыс гісторыі ўкраінскага народа» («Очерк истории украинского народа», 1904) і інш. абагульніў вынікі даследаванняў папярэднікаў, выкарыстаў навейшыя даныя археалогіі, этнаграфіі, філалогіі, апублікаваў вял. дакументальны матэрыял з архіваў розных краін. Як ідэолаг самастойнасці ўкр. народа, асобнай яго гісторыі, Г. адмаўляў уяўленні пра ўкр. гісторыю як фрагмент агульнарасійскай; «агульнарускую народнасць» і «агульнарускую гісторыю» лічыў міфам. Ва «ўкраінска-рускай» і «велікарускай» народнасцях бачыў вытокі розных дзяржаў: Кіеўскай і Уладзіміра-Маскоўскай, абвяргаў, што апошняя была спадкаемніцай Кіеўскай Русі. Прапаноўваў вывучаць асобна гісторыю кожнай усх.-слав. народнасці, у т.л. беларускай. Пры даследаванні гісторыі развіцця ВКЛ гал. месца адводзіў барацьбе да сярэдзіны 15 ст. паміж літоўскімі каталіцкімі і рускімі (укр.-бел.) коламі магнатаў і баярства. На яго думку, літ. народнасць трапіла пад уплыў славянскіх дзярж. і грамадскіх форм, рэлігіі, побыту, пісьменнасці, у выніку чаго бел. мова стала дзяржаўнай у ВКЛ, а літоўская дынастыя абрусела і ў 2-й пал. 14 ст. большасць літ. князёў была праваслаўнай. Паколькі землі беларусаў былі раней далучаны і цясней звязаны з ВКЛ, чым землі ўкраінскія, Г. лічыў бел. фактар больш уплывовым. Неправамерна адносіў Берасцейскую зямлю, Турава-Пінскае Палессе, некат. бел.-літ. летапісы да ўкраінскіх. У працах «Культурна-нацыянальны рух на Украіне ў XVI—XVII ст.» («Культурно-національний рух на Україні в XVI—XVII вв.», 1912), «Гісторыя ўкраінскай літаратуры» («Історія української літератури», т. 5, 1926) даў характарыстыку дзейнасці Ф.Скарыны, прывёў яго біягр. звесткі.

*Тв.*: Про старі часи на Україні: Коротка історія України. СПб., 1907 (2 выд. Київ, 1991); Киевская Русь. Т. 1. Введение. Территория и население в эпоху образования государства. СПб., 1911; Ілюстрована історія України. Київ; Львів, 1912 (3 выд. Київ, 1992); История украинского казачества до соединения с московским государством. Т. 1—2. Київ, 1913; Развитие украинских изучений в XIX в. и раскрытие в них основных вопросов украиноведения // Украинский народ в его прошлом и настоящем. СПб., 1914. Т. 1; История украинского народа // Там жа; Всесвітня історія в короткім огляді. Ч. 1—6. Київ, 1917—18; З політичного життя Старої України: Розвідки, статті, промови. Київ, 1917 (на вокладцы 1918); Хмельницький в Переяславі: Історічні образи. Київ, 1917; Історія української літератури. Т. 1—6. Київ; Львів, 1923—27 (2 выд. Київ, 1993—95); З історії релігійної думки на Україні. Львів, 1925 (3 выд. Київ, 1994); Історія України-Руси. Т. 1—10. Київ, 1991—98; Твори у 50 т. Серія суспільно-політичні твори. Т. 1. 1894—1907. Львів, 2002.

*Літ.*: Крип'якевич І. Михайло Грушевський: Життя і діяльність. Львів, 1935; Винар Л. Найвидатніший історик України Михайло Грушевський (1866—1934): У 50-ліття смерті. Б. м., 1985; Його ж. Михайло Грушевський: історик і будівничий нації: Статті і матеріали. Київ; Нью-Йорк, 1995; Пріцак О. Історіософія та історіографія Михайла Грушевського. Київ; Кембридж, 1991; Копиленко О.Л. «Українська ідея» М. Грушевського: історія і сучасність. Київ, 1991; Великий українець: Матеріали з життя та діяльності М.С.Грушевського. Київ, 1992; Михайло Грушевський і укрїнська історічна наука: Матеріали наук. конференцій (Львів, 24—25.10.1994; Харків, 25.08.1996; Львів, 29.09.1996). Львів, 1999.

***Марыя Аўсяная.***

**Грыгаровіч** Іван Іванавіч [1(12).9.1790, паводле інш. звестак 26.8(6.9).1792, г. Прапойск Старабыхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер г. Слаўгарад—1(13).11.1852], беларускі археограф,



гісторык, краязнавец, пісьменнік. Нарадзіўся ў сям'і святара, па маці — траюрадны пляменнік бел. архіепіскапа *Георгія* Каніскага. Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1811), на сродкі дзярж. канцлера графа М.П.Румянцава — Пецярбургскую духоўную акадэмію (1819). У 1811—15 выкладчык Магілёўскага духоўнага вучылішча. З 1820 саборны протаіерэй, рэктар Гомельскага духоўнага вучылішча, з 1829 саборны протаіерэй у Віцебску, з 1831 служыў у Пецярбургу пры царкве лейб-гвардыі Фінляндскага палка, з 1838 пры царкве Анічкава палаца. Навук. дзейнасць Г. пачалася ў час навучання ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі: рабіў пераклады лацінамоўных лістоў, апісваў рукапісныя кнігі з Румянцаўскай бібліятэкі. У Гомелі падрыхтаваў да выдання дысертацыю пра наўгародскіх пасаднікаў, збіраў матэрыялы ў архівах Мсціслава і Магілёва для напісання паліт. і царк. гісторыі Беларусі. Меў пастаянныя навук. кантакты з мітрапалітам Яўгеніем Балхавіцінавым (Кіеў), І.Лабойкам (Вільня), членамі Румянцаўскага гуртка (Пецярбург, Масква). Збіраў і рыхтаваў да друку першы бел. археаграфічны зб. *«Беларускі архіў старажытных грамат»* (на сродкі Румянцава выдадзена ч. 1, 1824). Напісаў гіст. дослед «Беларуская іерархія» (1824). Пасля пераезду ў Пецярбург падрыхтаваў і выдаў зб. дакументаў пра ўзаемаадносіны рас. самадзержцаў і рымскіх пап, у 1835 — збор твораў у 2 т. архіепіскапа Георгія Каніскага са сваёй прадмовай. Гэту працу высока ацаніў А.Пушкін. З 1837 чл. Археаграфічнай камісіі ў Пецярбургу, з 1838 гал. рэдактар яе выдання *«Акты гістарычныя»*, прымаў удзел у падрыхтоўцы да выдання *«Актаў Заходняй Расіі»*. У апошнія гады жыцця па прапанове міністра нар. асветы П.А.Шырынскага-Шыхматава займаўся складаннем слоўніка бел. мовы. Аўтар казанняў, у якіх закранаў філас. праблемы быцця, часу, падаў праваслаўна-багаслоўскую думку пра навакольны сусвет. Пахаваны на Волкавых могілках у Пецярбургу, на камені быў высечаны надпіс: «Ne frustra videar vixisse» («Мне здаецца, што не дарэмна пражыў»). Магіла не збераглася.

*Тв.*: Исторический и хронологический опыт о Посадниках Новгородских: Из древних русских летописей. М., 1821; Белорусский архив древних грамот. Ч. 1. М., 1824; Историческое сведение о жизни Митрофана, первого воронежского епископа. СПб., 1832; Переписка пап с российскими государями по рукописям римской барбериниевой библиотеки. СПб., 1834; Беларуская іерархія. Мн., 1992.

*Літ.*: Суднік М. Збіральнік беларускіх старажытнасцяў // Беларусь. 1945. № 11—12; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 16—40.

***Мікола Нікалаеў.***

**Грыгорый I** Цамблак (свецкае імя Гаўрыіл; каля 1364, г. Тырнава, цяпер Вяліка-Тырнава, Балгарыя—1419/20?), праваслаўны царкоўны дзеяч ВКЛ, пісьменнік. Пляменнік мітрапаліта *Кіпрыяна* і, відаць, сваяк тырнаўскага патрыярха Яўфімія. Атрымаў царк. адукацыю на Афоне (Грэцыя). Пасля 1393 (захоп Тырнава туркамі і падзенне Балгарскага царства) займаў царк.-адм. пасады ў Канстанцінопалі, Малдове, Сербіі. У 1406 быў выкліканы Кіпрыянам у Маскву, але па дарозе (на Нёмане) даведаўся пра яго смерць і застаўся ў ВКЛ, дзе стаў вядомы як вучоны кніжнік і прапаведнік. Праблема пастаўлення новага мітрапаліта (Кіеўская мітраполія захоўвала на той час адноснае адзінства) прывяла да канфлікту паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. Канстанцінопальскі патрыярх адхіліў прапанаваную Вітаўтам кандыдатуру полацкага архіепіскапа Феадосія і ў 1408 зацвердзіў кандыдата Масквы *Фоція*. У адказ у 1415 па патрабаванні Вітаўта ў Навагародку быў скліканы царкоўны сабор, на якім мітрапалітам кіеўскім абраны Г. Абранне адбылося без згоды канстанцінопальскага патрыярха, г.зн. некананічна паводле царк. права (пры гэтым спасылаліся на прэцэдэнт Клімента Смаляціча), але садзейнічала ўнутр. ўмацаванню ВКЛ. Да буйнейшых падзей перыяду кіравання Г. належыць перанос у 1416 мітрапаліцкай кафедры з Кіева (спустошаны ў выніку набегу Нагайскай арды) у Вільню (рэзідэнцыя Г. знаходзілася ў Навагародку) і ўдзел новага мітрапаліта ў *Канстанцкім саборы 1414—18*. Са смерцю Г. і пагаршэннем адносін ВКЛ з Польшчай у пач. 1420-х г. пытанне пра асобную мітраполію страціла вастрыню; Вітаўт прызнаў царк. ўладу Фоція над зах. епархіямі. Наступны этап станаўлення царквы ВКЛ звязаны з імем і дзейнасцю *Грыгорыя* Балгарына (яго ўжо ў стараж.-рус. кніжнасці блыталі з Г.). Літ. творчасць Г. Цамблака (жыціі, казанні, пахвальныя словы) ставіць яго ў шэраг выдатнейшых дзеячаў царк.-слав. і старабалгарскай культуры. Гіпотэза А.І.Яцымірскага пра добраахвотны адыход Г. з мітраполіі, яго далейшае жыццё ў Малдове ў 1420—40-я г. і яго тоеснасць з малдаўскім манахам-кніжнікам Гаўрылам не атрымала прызнання ў большасці даследчыкаў.

*Тв.*: Похвално слово за Евтимий. София, 1971; Житие на Стефан Дечански. София, 1983.

*Літ.*: Яцимирский А.И. Григорий Цамблак: Очерк его жизни, административной и книжной деятельности. СПб., 1904; Мечев К. Григорий Цамблак. София, 1969; Лапіцкі М. Праваслаўе ў Вялікім княстве Літоўскім за часоў панавання Уладыслава Ягайлы. Нью-Йорк, 1978; Heppell M. The ecclesiastical career of Gregory Camblac. London, 1979; Шалькевіч В. Цамблак і Вітаўт // Голас Радзімы. 1998. 10 верас.

***Валерый Антонаў.***

**Грыгорый II** Балгарын (?—1472 або 1473), адзін з першых дзеячаў уніі праваслаўнай царквы з каталіцкай у ВКЛ. Мітрапаліт кіеўскі з 1458. Родам з Балгарыі. Вучань і паплечнік мітрапаліта *Ісідора*. Пасля заключэння *Фларэнційскай уніі 1439* уцёк разам з Ісідорам з Масквы ў Рым, з 1452 у Канстанцінопалі, ігумен манастыра св. Дзмітрыя. У 1458 пасвячоны канстанцінопальскім патрыярхам-уніятам Грыгорыем Мамам з дазволу папы Калікста III у мітрапаліты 9 зах. епархій Рус. праваслаўнай царквы з тытулам архіепіскапа кіеўскага, літоўскага і Ніжняй (Малой) Русі (рэзідэнцыя ў Навагародку). Прыняты і зацверджаны каралём польскім і вял. князем літоўскім Казімірам IV. Такі тытул мітрапаліта сведчыў аб прэтэнзіях на кананічную ўладу над усёй тэр. б. Кіеўскай Русі, што выклікала пратэсты з маскоўскага боку (з 1459 мітраполія ў Маскве афіцыйна стала называцца Маскоўскай, а не Кіеўскай, што сведчыла аб фактычным падзеле на 2 царквы). Прызнанне мітрапаліта-уніята епіскапамі зах. епархій сведчыла аб імкненні да незалежнасці ад маскоўскага мітрапаліта. Аднак духавенства і вернікі, нягледзячы на намаганні Г., унію не прынялі. У 1469 Г. звярнуўся да Канстанцінопальскай патрыярхіі з адмовай ад уніі і з просьбай аб зацвярджэнні яго ў сане мітрапаліта. У 1472 патрыярх Дыянісій зацвердзіў Г. як мітрапаліта кіеўскага, галіцкага і ўсяе Русі (фактычна аўтакефалія Маскоўскай мітраполіі не была прызнана ў Канстанцінопалі). Правасл. царква ВКЛ і Галіцы (у Польскім каралеўстве) атрымала т.ч. поўнае кананічнае прызнанне. У адказ Масква разарвала



адносіны з Канстанцінопальскай патрыярхіяй і Кіеўскай мітраполіяй. Г. лічыцца аўтарам шэрагу літ.-царк. твораў. Памёр у Навагародку.

*Літ.*: Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990; Лурье Я.С. Две истории Руси XV века: Ранние и поздние летописи об образовании Московского государства. СПб., 1994.

***Валерый Антонаў.***

**Грынцэвіч** Людвік (1717?—10.10.1783), архітэктар, прадстаўнік позняга барока. Сярод работ на Беларусі: касцёлы аўгусцінцаў (1750—66) у фальварку Забелы (сучасная в. Валынцы Верхнядзвінскага р-на), дамініканцаў у Друі (1765—73; разам з арх. А.Парака), дамініканскі кляштар у Нясвіжы (1780-я г.; усе не збераглісся). Удзельнічаў у рэканструкцыі касцёла місіянераў у Вільні (1753), стварыў дамініканскія касцёлы ў Расейнах (1776—83) і Вярбілаве.

**грыўня**, вагавая, лікавая і грашовая адзінка 11—17 ст., назва якой паходзіць ад старажытнага ўпрыгожання — шыйнай грыўні. 1) Г. серабра — вагавая адзінка (маса каля 204 г); сярэбраны *злітак плацежны* — грашовая адзінка 11—15 ст., якая, верагодна, у актавых матэрыялах ВКЛ згадваецца як Г. руская. 2) Г. кун — лікава-грашовая адзінка, якая адпавядала пэўнай колькасці манет: у 11 ст. роўная 20 нагатам, 25 кунам або 50 разанам; у 12 ст. — 25 нагатам, 50 кунам. 3) Вагавая адзінка, на якой грунтавалася манетная стапа ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, гл. *Грыўня кракаўская*.

**грыўня кракаўская**, грыўня польская (лац. marca ponderis cracovienses вагавая кракаўская грыўня, marca numeris cracovienses лікавая кракаўская грыўня), 1) вагавая адзінка, на якой грунтавалася манетная стапа ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай; адзінка для вызначэння масы каштоўных металаў. Часам выкарыстанне Г.к. фіксуецца ўскосным вызначэннем «вагі кракаўскай», або «вагі польскай». У 15 ст. Г.к. адпавядала 56 угорскім фларэнам (*дукатам*, 197,684 г). Ардынацыя 1650 прыраўнавала яе да 7 імперскіх *талераў* (201,8 г), у 1766 адбыўся пераход на кёльнскую марку (233,8 г), якая часам ужывалася ўжо ў 17 ст. Г.к. падзялялася на 16 лотаў, лот — на 4 квентхены (квінтэлі) або 16 рыхтпфенігаў; у 1524 законам Свяшчэннай Рымскай імперыі ўстаноўлены новы стандарт: лот падзелены на 18 гранаў (*дэнарыяў*). У Рэчы Паспалітай сустракаюцца выпадкі архаічнага падзелу лота на 4 квінтэлі ў пач. 17 ст. 2) Грашова-лікавая адзінка ў Польшчы і ВКЛ у 48 *грошаў* (пражскіх, потым польскіх). Падзялялася на 4 фертоны (вярдункі), фертон — на 6 скойцаў (шкойцаў), скоец — на 4 квартнікі ці квінтэлі (адпавядае *паўгрошу*). З'явілася ў 1-й чвэрці 14 ст., ужывалася ў Польшчы да з'яўлення ў канцы 15—пач. 16 ст. лікавага злотага. Як запазычаны тэрмін сустракаецца ў цэхавых статутах ВКЛ.

***Іван Сінчук.***

**Грыцкевіч** Анатоль Пятровіч (н. 31.1.1929, Мінск), беларускі гісторык. Брат В.П.*Грыцкевіча*. Д-р гіст. навук (1986), праф. (1987). Акад. Міжнар. АН Еўразіі (1999). Скончыў мінскія дзярж. мед. ін-т (1950), дзярж. пед. ін-т замежных моў (1955), БДУ (1958). Працаваў урачом. З 1959 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. З 1975 заг. кафедры Мінскага ін-та культуры (з 1993 Бел. дзярж. ун-т культуры). Адначасова ў 1996—2000 дырэктар НДІ Цэнтр. і Усх. Еўропы (у Мінску). Даследуе гісторыю Беларусі перыяду феадалізму: эканам. і сац. пытанні, гісторыю прыватнаўладальніцкіх гарадоў, паліт. і ваен. гісторыю; гісторыю Беларусі часоў барацьбы за незалежнасць і грамадзянскай вайны, Слуцкі збройны чын 1920, бел.-літоўскія адносіны. Вывучае гісторыю бел. культуры, у т.л. жыццё і дзейнасць Ф.Скарыны і яго паслядоўнікаў, гісторыю шляхецкага саслоўя і генеалогію магнацкіх і шляхецкіх родаў Беларусі і Літвы. Аўтар прац па гісторыі рэлігіі і царквы ў Беларусі, Слуцка і Случчыны, біяграфічных нарысаў у зб. «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» (вып. 1—2, 2000—03).

*Тв.*: Слуцк: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1970; Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1973. № 6; Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (соц.-экон. исслед. истории городов). Мн., 1975; Историография истории православной церкви в Белоруссии (XIV—середина XVI века) // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976; Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.). Мн., 1979; З гісторыі паселішчаў татар у Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 6; Формирование феодального сословия в Великом княжестве Литовском и его правовые основы (XV—XVI) // Первый Литовский статут 1529 г.: (Материалы респ. науч. конф.). Вильнюс, 1982; Древний город на Случи. Мн., 1985; La Bielorussia all'incrocio fra cristianesimo orientale ed occidentale // Cristianesimo e cultura in Europa. Vaticano-Roma, 1991; Position of orthodox church in Belorussia before Lublin Union, 1596 // Le origini e lo sviluppo della cristianitá Slavo-Bizantina. Roma, 1992; Бітва пад Оршай 8 верасня 1514 г. // Спадчына. 1992. № 6; Беларуская шляхта // Там жа. 1993. № 1; Канфесіі на Беларусі // Беларусазнаўства: навуч. дапаможнік. Мн., 1997.

**Грыцкевіч** Валянцін Пятровіч (н. 30.3.1933, г. Мінск), беларускі гісторык. Брат А.П.*Грыцкевіча*. Д-р культуралогіі (2003), канд. мед. навук (1963). Скончыў мінскія дзярж. пед. ін-т замежных моў (1955), дзярж. мед. ін-т (1956), БДУ (1957). З 1956 працаваў урачом на Беларусі і ў Ленінградзе, у 1970—94 у Ваенна-мед. музеі і з 1988 на кафедры музеязнаўства (з 1990 дацэнт) Ленінградскага ін-та культуры (цяпер Санкт-Пецярбургскі ун-т культуры і мастацтваў). Даследуе метадалогію гіст. навукі, гісторыю музейнай справы, турызму, геагр. ведаў, міграцыі беларусаў у Расію; гісторыю медыцыны, эндакрыналогію. Адзін з арганізатараў і старшыня (з 1988) Бел. грамадска-культ. т-ва ў Санкт-Пецярбургу, чл. Міжнар. асацыяцыі беларусістаў, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

*Тв.*: Путешествия наших земляков: Из истории страноведения Белоруссии. Мн., 1968; Rozwój myśli Mikołaja Kopernika i Galileo Galileusza w naukach przyrodniczych Litwy i Białorusi w XV—XVIII w. // Zdrowie publiczne. 1973. № 5; Шляхі вялі праз Беларусь. Мн., 1980 (з А.Мальдзісам); От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986; С факелом Гиппократа: Из истории бел. медицины. Мн., 1987; Адысея навагрудскай лекаркі: Саламея Русецкая. Мн., 1989; Выхадцы з Беларусі ў пачатку XVIII стагоддзя // Полымя. 1989. № 7—8; Якой быць беларускай гістарычнай навуцы // Там жа. 1992. № 5; Два погляды на адну канстытуцыю // Там жа. 1993. № 9; Беларуска-рускія перасяленні ў XIV—XVIII ст. // Спадчына. 1993. № 3—5; O przynależności narodowej wychodzców z terenów byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego // Lithuania. 1998. № 4; Гісторыя і міфы. Мн., 2000; Теория и история источниковедения. Мн., 2000 (з С.М.Ходзіным і С.Б.Каўнам); История музеев мира. Мн., 2003 (з А.А.Гужалоўскім); История музейного дела до конца 18 в. 2 изд. СПб., 2004.

**Грэкаў** (Греков) Ігар Барысавіч (8.8.1921, г. Сімферопаль—14.10.1993), расійскі гісторык. Д-р гіст. навук (1971).



Сын гісторыка акад. Б.Дз.Грэкава. Скончыў Маскоўскі дзярж. ун-т (1946), вучань В.І.Пічэты і М.М.Ціхамірава. З 1950 працаваў у Ін-це славяназнаўства і балканістыкі АН СССР (РАН, з 1986 вядучы навук. супрацоўнік). Аўтар прац па гісторыі ВКЛ, Польшчы, Расіі, Залатой Арды 13—17 ст., гісторыі міжнар. адносін. Адным з першых прапанаваў і абгрунтаваў тэзіс пра існаванне пасля мангола-татарскага нашэсця некалькіх цэнтраў, якія імкнуліся аб'яднаць усх.-слав. землі. Паступова ў барацьбе за гэту спадчыну сярод прэтэндэнтаў засталіся толькі ВКЛ і Вял. княства Маскоўскае, перавага напачатку была на баку першага. Крытыкаваў гісторыкаў, якія не заўважалі фарміравання ў складзе ВКЛ і Рэчы Паспалітай новых этнасаў — беларусаў і ўкраінцаў.

*Тв.*: Очерки по истории международных отношений Восточной Европы, XIV—XVI вв. М., 1963; Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV—XV вв.). М., 1975; Османская империя и страны Центральной, Восточной и Юго-Восточной Европы в XV—XVI вв. М., 1984 (у сааўт.); Мир истории: Русские земли в XIII—XV вв. 2 изд. М., 1988 (разам з Ф.Ф.Шахмагоновым); Вечный мир 1686 г. // Советское славяноведение. 1987. № 1; Международное значение договора 1686 г. между Россией и Речью Посполитой // Przemiany w Polsce, Rosji, na Ukrainie, Białorusi i Litwie (druga połowa XVII—pierwsza połowa XVIII w.). Wrocław etc., 1991.

***Уладзімір Кананов***іч,
***Валерый Пазднякоў.***

**грэчаская мова**, мова грэкаў; адна з індаеўрапейскіх моў. У ВКЛ былі прадстаўлены абедзве гіст. формы Г.м.: старажытнагрэчаская — мова антычных аўтараў і навагрэчаская — мова арыгіналаў хрысціянскай літаратуры. Выдатнымі знаўцамі антычнай літаратурнай спадчыны былі паэты ВКЛ М.Гусоўскі, Я.Вісліцкі, Я.Радван, Ф.Градоўскі і інш. Значную частку гэтай спадчыны ў «Радзівіліядзе» Радвана складае творчасць Гамера і Гесіёда. Пашырэнню грэчаскай пісьменнасці ў слав. свеце, у т.л. і ва ўсх. славян, садзейнічала распрацоўка на аснове грэчаскай азбукі стараславянскай мовы, першыя кнігі на якой былі перакладамі з Г.м. З Г.м. перакладаліся *кормчыя кнігі* (номаканоны) — зборнікі царк. і свецкіх законаў. Паколькі слав. тэкст Бібліі быў перакладам з грэчаскай, існавала традыцыя для падкрэслівання аўтэнтычнасці пэўнага слав. перакладу ўключаць у яго тэкст сегменты арыгінала, якія мелі характар славесных формул. Навагрэчаскія арыгіналы біблейскіх кніг лічыліся эталонам дакладнасці, таму яны выкарыстоўваліся пры падрыхтоўцы выданняў і перакладаў біблейскіх тэкстаў у ВКЛ. Ф.Скарына пры падрыхтоўцы свайго выдання Бібліі карыстаўся, відаць, тэкстамі і на Г.м. У выдадзенай Скарынам у 1522 у Вільні «Малой падарожнай кніжцы» ёсць слав. пераклады акафістаў візантыйскіх гімнографаў Іосіфа Песнапісца, Ісідора Бухіраса і інш. З каментарыяў да Бібліі французскага багаслова Нікаля дэ Ліра (каля 1270—1340) Скарына запазычыў яўрэйскія, грэчаскія і лацінскія назвы біблейскіх кніг. Таго ж паходжання ў прадмовах Скарыны і цэлыя фразы на гэтых мовах. Цытаты з грэчаскіх арыгіналаў царк. кніг сустракаюцца і ў іншых старабел. пісьмовых тэкстах. Хаця В.Цяпінскі пры перакладзе Евангелля часта замяняў грэчаскія словы ў бел. тэксце, імкнучыся да яго лексічнай арыгінальнасці, у бел. частцы яго выдання ўсё ж захаваліся некат. грэцызмы, што замацаваліся праз царкоўнаслав. мову. Бацька М.Сматрыцкага Г.Сматрыцкі ведаў некалькі замежных моў, у т.л. грэчаскую. Пачатковую адукацыю М.Сматрыцкі атрымаў пад непасрэдным кіраўніцтвам бацькі і грэка, выдатнага грамадскага і рэліг. дзеяча, з 1612 канстанцінопальскага патрыярха Кірылы Лукарыса, які скончыў Грэчаскі калегіум і універсітэт у Падуі. Г.м. дасканала валодалі С.Будны і Л.Зізаній. Разам з лацінскай яна ўваходзіла ў якасці абавязковай у праграмы правасл. школ ВКЛ. Вял. значэнне Г.м. надавалася ў езуіцкіх калегіумах. Г.м. выкарыстоўвалася ў навукова-педагагічнай дзейнасці правасл. брацтваў, пры падрыхтоўцы граматык і слоўнікаў царкоўнаслав. мовы, дзе яна часам называлася «грэка-славянскай». У 1578 у Астрожскай друкарні І.Фёдарава надрукавана азбука, якая мела дадаткам грэчаскі алфавіт і грэка-слав. тэксты. У 1591 у Львове выдадзены тэарэтычны падручнік Г.м з царкоўнаслав. перакладам — «Грамматіка доброглаголиваго еллино-словенскаго языка. Совершеннаго искусств осми частей слова ко наказанию многоименитому Російскому роду». Грэчаскі, лацінскі і інш. тэксты былі выкарыстаны пры падрыхтоўцы да друку Астрожскай Бібліі. Гэта выданне забяспечана 2 пасляслоўямі Фёдарава на Г.м. Тастамент грэчаскага цара Васіля змешчаны ў выдадзеным у 1607 у Астрогу рэлігійна-філасофскім творы «Лекарство на оспалый умыслъ человечій» (2 выд. Магілёў, 1638). На Беларусі былі пашыраны пераклады з Г.м. павучальнай л-ры: «Духоўныя гутаркі» Макарыя (Вільня, 1627), «Гісторыя пра Варлаама і Іасафа» (Куцейна, 1637). Грэчаскае паходжанне мае «Жыціе» З віленскіх пакутнікаў.

Гісторык С.Голубеў указаў на прычыну шырокага распаўсюджання грэчаскіх псеўданімаў у канцы 16—1-й пал. 17 ст.: пісьменнікі таго часу, каб надаць большую важнасць сваім творам, прыкрываліся аўтарытэтам грэчаскай царквы і святых айцоў. Вядомы псеўданімы: Меланхтан (Ф.Шварцэрд), Хрыстафор Філалет (М.Бранеўскі), Зізаній (С.і Л. Кукалі), Тэафіл Арталог (М.Сматрыцкі) Транквіліён (К.Стаўравецкі). Пісьменнікі, у т.л. палемісты, давалі сваім творам загалоўкі на Г.м., часам з паралельным перакладам на царкоўнаслав. ці бел. мовы («Apokrisis» Хрыстафора Філалета, «ΘΡΗΝΩΣ» і «Exethesis» М.Сматрыцкага, «Гаръмонія» І.Пацея, «Antelenchus» А.Сялявы, «Дыдаскалія» С.Косава, і інш.). Пры гэтым часам змяшчаўся пераклад і на лацінскую мову («ΘΡΗΝΩΣ to iest Lament» М.Сматрыцкага) — сведчанне ўліку пісьменнікамі меншай ступені пашырэння грэчаскай моўнай кампетэнцыі ў грамадстве ў параўнанні з лацінскай. Грэчаская азбука служыла для бел. пісцоў крыніцай графічных сродкаў для ўдасканалення бел. пісьма (графема «кг» для пазначэння выбуховага «г» і інш.).

*Літ.*: Фонкич Б.Л. Греческо-русские культурные связи в XV—XVII вв. М., 1977; Яго ж. Греческие тексты Острожской Библии // Федоровские чтения. 1981. М., 1985; Яго ж. Греческие рукописи и документы в России в XIV—начале XVIII в. М., 2003; Россия и греческий мир. Т. 1. М., 2004.

***Уладзімір Свяжынскі.***

**губернатар**, пасада ў ВКЛ. У агульным значэнні — намеснік якой-небудзь адм.-тэр. адзінкі. У 2-й пал. 17—18 ст. Г. называлі кіраўнікоў (намеснікаў, старастаў, аканомаў) Слуцкага, Капыльскага, Нясвіжскага, Давыд-Гарадоцкага княстваў Радзівілаў, Быхаўскага, Крычаўскага старастваў і інш. Часам губернямі называлі больш дробныя адм.-гасп. адзінкі, супастаўныя з войтаўствамі ці ключамі (напр., у Берасцейскай і Гарадзенскай эканоміях).

***Валерый Пазднякоў.***

**Гудавічус** (Gudavičius) Эдвардас (н. 6.9.1929, г. Каўнас, Літва), літоўскі гісторык. Чл.-кар. АН Літвы (1996), д-р гіст. навук (1989), праф. (1991). Скончыў Каўнаскі політэхнічны ін-т (1953) і Вільнюскі ун-т (1968). Працаваў інжынерам. З 1974 у Ін-це гісторыі Літвы, вядучы навук. супрацоўнік. Даследуе сац.-эканам. і паліт. гісторыю, матэрыяльную і духоўную культуру Літвы, этнагенез і этнічную гісторыю балтаў, гістарыяграфію гісторыі Прыбалтыкі феад. перыяду, праблемы крыніцазнаўства, дыпламатыкі і інш. Асн. працы прысвечаны ўзнікненню і фарміраванню ВКЛ у 13 ст., ваен.-паліт. адносінам Літвы і Тэўтонскага ордэна, кадыфікацыі права, Статутам ВКЛ. Распачаў разам з С.Лазуткам шматтомнае выданне «Першы Літоўскі Статута 1529» (Вільнюс, т. 1, ч. 1—2, 1983—85) з факсімільным узнаўленнем тэкстаў Дзялынскага, Лаўрэнцьеўскага і Альшэўскага спісаў, з навук., гіст., палеаграфічнымі і археаграфічнымі каментарыямі.

*Тв.*: Процесс закрепощения крестьянства Литвы и его отражение в I Литовском Статуте 1529 г. // История СССР. 1970. № 3 (з С.Лазуткам); Žymenys ir ženklai Lietuvoje XII—XX a. Vilnius, 1980; «Литва Миндовга» // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985; По поводу так называемой «диархии» в Великом княжестве Литовском // Феодализм в балтийском регионе. Рига, 1985; Kryžiaus karai Pabaltijyje ir Lietuva XIII amžiuje. Vilnius, 1989; Miestų atsiradimas Lietuvoje. Vilnius, 1991; Mindaugas. Vilnius, 1998; Lietuvos istorija. T. 1. Nuo seniakausiu laiku iki 1569 metu. Vilnius, 1999.

*Літ.*: Edvardas Gudavičius: Bibliografinė rodyklė, 1970—1989. Vilnius, 1990; Tarp istorijos ir būtovės. Vilnius, 1999.

***Георгій Галенчанка.***

**Гудагайскі абраз Маці Божай**, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі. Паходжанне яго і час з'яўлення ў Гудагаі (Ашмянскі пав. Віленскае ваяв., цяпер вёска ў Астравецкім р-не Гродзенскай вобл.) невядомы. Паводле падання, абраз трапіў сюды праз рус. купцоў, пазней належаў уладальнікам Гудагая Развадоўскім, з 1735 — Людвіцы Войне. У 1764 абозны полацкі Юзаф Война з жонкай Людвікай з Сулістроўскіх заснавалі пры касцёле кляштар кармелітаў. У гэты час абраз набыў вядомасць як цудадзейны. Пасля закрыцця касцёла (1866) абраз перанеслі ў касцёл у Ашмянах. У 1906 ён вернуты ў адроджаную гудагайскую парафію. Абраз намаляваны, відаць, у 16 ст. на дошцы невял. памераў тэмперай: належыць да іканаграфічнага тыпу «Замілаванне», Маці Божая з дзіцем на правай руцэ. Паводле характару жывапісу належыць да візантыйска-правасл. традыцыі, паўтарае іканаграфічна вядомы візантыйскі абраз «Маці Божая Уладзімірская».



**Гудагайскі абраз Маці Божай.**

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**гуды** (літоўскае gudai), традыцыйная назва беларусаў з боку літоўцаў. У 19 ст. існавалі і інш. значэнні тэрміна: так літоўцы Прусіі называлі жмудзінаў, а таксама сваіх паўд. суседзяў — палякаў, літоўцаў, беларусаў. Слова вядома з 15 ст. Найб. пашыраны погляд, што слова «Г.» паходзіць ад стараж. назвы готаў. Мяркуецца, што балты засвоілі гэтую назву ў час прасоўвання готаў у 2—3 ст. з Павіслення ў Паўн. Прычарнамор'е, якое ішло і праз зах.-бел. землі. З цягам часу назва «Г.» была перанесена з готаў на інш. суседнія народы, нарэшце замацавалася за беларусамі. Ад этноніма «Г.» (ці ад адпаведных антрапонімаў) паходзяць назвы шматлікіх населеных пунктаў у Беларусі і Літве, якія канцэнтруюцца ў зоне стараж. балта-слав. этнічных кантактаў.

*Літ.*: Охманьский Е. Иноземные поселения в Литве XIII—XIV вв. в свете этнонимических местных названий // Балто-славянские исследования, 1980. М., 1981; Рогалев А.Ф. Этноним *гуды* на географической карте: поиски ист. мотивации // Сов. этнография. 1989. № 6.

***Валерый Пазднякоў.***

**гультаі**, людзі лёзныя, гл. ў арт. *Людзі.*

**гуманізм** (ад лац. humanus чалавечы, чалавечны), гістарычна зменлівая трактоўка годнасці чалавека (антычная, хрысціянская, рэнесансавая, барочная і г.д.). Калі ў антычнай свядомасці чалавекам лічыўся толькі свабодны чалавек, то хрысціянства абвясціла роўнасць усіх перад Богам. Разам з тым яно не адмаўляла грамадскай няроўнасці. Хрысціянскі Г. прадугледжваў: прыярытэт духоўнага пачатку над цялесным, матэрыяльным; абумоўленасць сапраўднай чалавечнасці верай у бога і любоўю да бліжняга; абмежаванасць свабоды, што вынікала з веры ў папсаванасць чалавечай натуры першародным грахом і інш. У эпоху Адраджэння ў Еўропе і ВКЛ фарміруецца адметны ад традыцыйнага хрысціянска-сярэдневяковага погляд на чалавека, у аснову якога пакладзена вучэнне пра неабмежаваную свабоду, уяўленне пра самакаштоўнасць зямнога чалавечага жыцця, натуралізм як спосаб інтэрпрэтацыі сутнасці чалавека і прыродна-сацыяльнай рэчаіснасці. Кампанентамі духоўнага свету чалавека побач з верай, высокай маральнасцю абвяшчаліся



адукацыя, веды, грамадзянскасць. Пад свабодай разумеліся павага да жыцця і годнасці чалавека, уласнасці, абарона іх сродкамі права і ўлады. Носьбітамі рэнесансавага Г. як у Еўропе, так і ў ВКЛ з'яўляліся прадстаўнікі новай інтэлігенцыі (мастакі, пісьменнікі, кнігавыдаўцы, настаўнікі, вучоныя, філосафы і інш.), паліт. дзеячы, адукаваныя магнаты (Радзівілы, Астрожскія, Хадкевічы, Валовічы, Глябовічы, Сапегі, Кішкі і інш.), дзеячы царквы. У ВКЛ найб. ўплыў рэнесансавага Г. на грамадскую свядомасць прыпаў на 16—пач. 17 ст., прычым ён меў не толькі шмат агульнага, але і адметнага ў параўнанні з інш. краінамі Еўропы. Станаўленне гуманістычнага светапогляду ў ВКЛ звязана з прагрэсіўным развіццём наяўнага грамадства, секулярызацыяй культуры, узрастаючай цікавасцю да антычнай філас. спадчыны, а вытокі яго ўзыходзяць да хрысціянска-гуманістычнай канцэпцыі чалавека, якая складвалася ў культуры Кіеўскай Русі і была прадстаўлена імёнамі Іларыёна, Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Клімента Смаляціча, Данілы Заточніка і інш. Значны ўплыў на гуманістычную свядомасць ВКЛ зрабілі менталітэт, грамадска-палітычная сістэма Полацкай дзяржавы («полацкая свабоднасць»).

У светапоглядзе рэнесансавых мысліцеляў-гуманістаў Ф.Скарыны, М.Гусоўскага, С.Буднага, В.Цяпінскага, А.Волана, Л.Сапегі і інш. традыцыйна-хрысціянскія ўяўленні сінтэзаваліся з секулярызаванымі, якія мелі рэнесансавы характар. Сцвярджаліся цярпімасць да іншаверства і іншадумства, права чалавека на ўласны, адметны ад пануючага погляд на рэчы, персанальная адказнасць за свае ўчынкі, ідэя індывідуальнага дабра. Разам з тым у айчынным Г. дамінавала ідэя агульнага дабра. Абмяркоўвалася магчымасць сінтэзу хрысціянскіх і антычных маральна-філасофскіх каштоўнасцей і выпрацоўкі на гэтай падставе агульначалавечых прынцыпаў паводзін, духоўнай культуры (С.Кашуцкі, Б.Будны). Аспектам рэнесансавага Г. ў ВКЛ з'яўляліся антыпрыгонніцкія погляды і вучэнні пра сацыяльную роўнасць (Якуб з Калінаўкі, Павел з Візны, Марцін Чаховіц). Адным з істотных момантаў рэнесансавага Г. ў ВКЛ было станаўленне нацыянальнай (беларускай, украінскай, літоўскай) самасвядомасці, усведамленне важнасці развіцця нац. культуры, роднай мовы, захавання дзярж. суверэнітэту (Скарына, С.Будны, Цяпінскі, А.Валовіч, Л.Сапега, Л.Зізаній, М.Смятрыцкі і інш.). З імем Гусоўскага звязана станаўленне новай гуманістычна-экалагічнай свядомасці ў культуры ВКЛ. Яе ідэі зафіксаваны таксама ў Статутах ВКЛ 1529, 1566, 1588.

Новыя рысы ў гуманістычную свядомасць ВКЛ унесла культура барока, якая сінтэзавала рэнесансавыя ідэалы і каштоўнасці з сярэдневяковымі, схаластычнымі (этыку з рыторыкай), прапанавала новы погляд на свет і чалавека, якія пачалі ўспрымацца з пункту гледжання адзінства супрацьлегласцей — зямнога і нябеснага, матэрыяльнага і ідэальнага, маральнага і амаральнага (заганнага), прыгожага і агіднага. Адбывалася далейшая рацыяналізацыя чалавечай свядомасці, якая тым не менш спалучалася з містыкай і магіяй. Усталёўваўся прапанаваны яшчэ Адраджэннем ідэал энергічнага чалавека, які сам актыўна дзейнічае ў жыцці, а не ўскладае свой лёс толькі на Бога. Адной з гал. дабрачыннасцей абвяшчалася працалюбства (уплыў пратэстанцкай этыкі). Універсальным прынцыпам свядомасці і паводзін станавіўся дынамізм, патрэба актыўнай дзейнасці ў інтарэсах уладкавання асабістага і грамадскага жыцця (Я.Даманеўскі, Т.Яўлевіч, Сімяон Полацкі, Л.Залускі, С.Лаўксмін і інш.).

*Літ.*: Старостенко В.В. Становление национального самосознания белорусов: этапы и основополагающие идеи (X—XVII вв.). Могилев, 2001; Падокшын С.А. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003; Яго ж. Этычная думка ў культуры Беларусі XVI—XVII стст. Мн., 2004.

***Сямён Падокшын.***

**Гумоўскі** (Gumowski) Мар'ян (30.9.1881, г. Кросценка-над-Дунайцам, Польшча—1.11.1974), польскі гісторык, нумізмат, сфрагістык, геральдыст. Д-р габілітаваны (1912). Вучыўся ў Кракаўскім ун-це, у Мюнхене і Італіі. З 1910 кіраўнік Музея Чапскіх у Кракаве, хавальнік Нац. музея. Рэдактар час. «Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne» («Нумізматычна-археалагічныя навіны», 1909—19). У 1919—32 дырэктар Велікапольскага музея ў Познані, рэдагаваў «Przegląd muzealny» («Музейны агляд», 1921) і «Roczniki muzealne w Poznaniu» («Музейныя штогоднікі ў Познані», 1921—31). У 1946—60 праф. нумізматыкі і стараж. гісторыі ў Тарунскім ун-це. Працы па грашовым абарачэнні Польшчы і ВКЛ, гісторыі манетных двароў Рэчы Паспалітай, ут.л. Віленскага, геральдыцы і сфрагістыцы ВКЛ, медальернаму мастацтву.

*Тв.*: Medale Jagiellonów. Kraków, 1906; Monety sasko-polskie. Kraków, 1910; Podręcznik numizmatyki polskiej. Kraków, 1914; Pieczęcie królów polskich. Kraków, 1920; Mennica wileńska w XVI i XVII wieku. Warszawa, 1921; Monety polskie. Warszawa, 1924; Medale polskie. Warszawa, 1925; Wileńska szkoła medaljerska w XVI i XVII wieku // Ateneum Wileńskie. 1929. R. 6, z. 1—2; Pieczęcie książąt litewskich // Там жа. 1930. R. 7, z. 3—4; Herby miast litewskich // Там жа. 1935. R. 10; Z rachunków podskarbiego litewskiego H.Wołłowicza // Там жа. 1938. R. 13, z. 1; Pieczęcie i herby miejscowości województwa lubelskiego. Lublin, 1959; Herby miast polskich. Warszawa, 1960; Sfragistyka. Warszawa, 1960 (з М.Гайзігам, С.Мікуцкім); Handbuch der polnischen Siegelkunde. Graz, 1966; Bibliografia numizmatyki polskiej. Toruń, 1967; Handbuch der polnischen Heraldik. Graz, 1969; Miennica gdańska. Gdańsk, 1990.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гурніцкі** Лукаш (1527, г. Асвенцім, Польшча—22.7.1603), гуманіст, пісьменнік, бібліятэкар. З мяшчанскай сям'і (прозвішча Гура). Мяркуецца, што сярэднюю адукацыю атрымаў у Кракаве, а вышэйшую — у Падуі. Як дваранін кракаўскага біскупа і падканцлера кароннага С.Мацяёўскага ўдзельнічаў у пасольстве ў Трансільванію (1545). З 1550 пры двары біскупа А.Забжыдоўскага, з 1552 пісар у каралеўскай канцылярыі, суправаджаў Жыгімонта Аўгуста ў Гданьск, Каралявец, ВКЛ, у 1553 у складзе пасольства ў Вену. У 1561 атрымаў шляхецтва з гербам «Агоньчык» і прыняў духоўны сан. З 1559 каралеўскі сакратар, потым бібліятэкар у Вільні, з 1565 у каралеўскай рэзідэнцыі ў Тыкоціне. Тут напісаў кн. «Польскі дваранін» («Dworzanin polski», Кракаў, 1566) на аснове твора італьянскага гуманіста Б.Кастыльёне «Прыдворны», дзе выклаў свой ідэал чалавека эпохі Адраджэння. Як узнагароду за кнігу атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста Тыкоцінскае староства (1571) і ад Стафана Баторыя — Васількаўскае староства (1576). Супраць шляхецкага свавольства скіраваны трактат Г. «Размова паляка з італьянцам пра польскія вольнасці і законы» («Rozmowa Polaka z Włochem o wolnościach i prawach polskich», без месца і года выдання, 2 выд. Кракаў, 1616). Праект рэформ дзярж. ладу выклаў у кн. «Дарога да поўнай вольнасці» («Droga do zupełnej wolności», Эльбланг, 1650). Займальныя гісторыі пры двары Жыгімонта Аўгуста апісаў у кн. «Гісторыі


DWORZANIN
Łukaßá Gornickiego
Polski.

Jest rostazánie listowne Krolá Jego Miłości/ áby ſadeń mimo Máciejá Wirzbięte tych kśiąg do lat dźieśiąći nie drukował/ áni indziey drukowánych w pánstwie Jego Krolewskiey M. przedawał. A ktho ſię nád rostazánie Krolewskie tego poważy: then kśięgi thákowe co ich kolwiek będzie miał/ stráci wszytki/ y nád to dźieśięć grzywien złotá winy záplaći.

Л.**Гурніцкі**. Польскі дваранін. Кракаў, 1566. Тытульны ліст.

ў Кароне Польскай» («Dzieje w Koronie Polskiej», Кракаў, 1637). Аўтар філасофска-маральнага дыялога «Сакратаўскі дэман», пабудаванага як размова чорта са злачынцам («Demon Socratis, albo Rozmowa złodzieja z czartem», 1624). Пісаў вершы, пераклаў на польск. мову трагедыю Сенекі «Траянкі» («Troas», Кракаў, 1589) і яго трактат «Пра дабрачыннасць» («Rzecz o dobrodziejstwach», Кракаў, 1593). Падтрымліваў сувязі з віленскім біскупам А.Валовічам і падскарбіем надворным ВКЛ Г.Валовічам, каралеўскім сакратаром П.Весялоўскім, сябраваў з паэтам Я.Кахаһоўскім.

*Тв.*: Pisma. T. 1—2. Warszawa, 1961.

*Літ.*: Kozielewski I. Łukasz Górnicki: Studium historycznoliteracki. Lwów, 1929; Chróściechowski J. Poglądy filozoficzno-prawne Łukasza Górnickiego. Warszawa, 1938; Lichański J.Z. Łukasz Górnicki — sarmacki Castiglione. Warszawa, 1998.

***Валерый Пазднякоў.***

**Гусаржэўскі** Тамаш (13.12.1732, Варшава—13.12.1807), тэолаг, гісторык, педагог, прадстаўнік асветніцкага кірунку ў гістарычнай навуцы Польшчы, Літвы і Беларусі. Праф. тэалогіі (1760). Адукацыю атрымаў у Варшаве, дзе стаў ксяндзом-місіянерам. У 1756—69 выкладаў у духоўных семінарыях Варшавы і Вены. З 1770 візітатар каталіцкіх касцёлаў у Расіі. Больш за 20 гадоў займаў пасаду рэгента Віленскай епархіяльнай семінарыі, у 1782—1805 праф. кафедры ўсеагульнай гісторыі Віленскага ун-та. З 1804 ганаровы член Віленскага т-ва навук і мастацтва. Аўтар працы «Прамова пры пачатку публічных лекцый па ўсеагульнай гісторыі ў Галоўнай школе Вялікага княства Літоўскага» (Вільня, 1784). Г. паўплываў на фарміраванне светапогляду І.Лялевеля і распрацоўку ім гіст.-сацыялагічнай канцэпцыі, яго пед. дзейнасць спрыяла пашырэнню ў Польшчы, Літве і Беларусі асветніцкіх ідэй.

*Тв.*: Książka jubileuszowa na diecyzję Wileńska. Wilno, 1776; Raport... o Kursie historii starożytnej w r. akademickim 1802—1803. Wilno, 1930.

*Літ.*: Бирало А.А. Философские проблемы в науке эпохи просвещения в Белоруссии и Литве. Мн., 1979.

***Мікалай Рыбко.***

**гусары** (венг. husz дваццаць + ar падатак), від конніцы ў еўрапейскіх дзяржавах у 15—пач. 20 ст. Упершыню Г. з'явіліся ў Венгрыі пры каралю Мацею Корвіне, які ў 1458 спец. указам стварыў асобнае дваранскае апалчэнне для змагання з туркамі. Кожныя 20 дваран абавязаны былі выставіць у войска аднаго добра ўзброенага конніка. У Польшчы гусарскія фарміраванні вядомы прыкладна з 1500. Соймавыя дакументы 1503 фіксуюць стварэнне вайск. часцей паводле «звычаю гусарскага». Праз нейкі час Г. з'явіліся і ў ВКЛ. Першапачаткова гэта была лёгкая конніца, але ўжо з сярэдзіны 16 ст. — цяжкаўзброеная кавалерыя, якая прызначалася для франтальнага ўдару з мэтай разбурыць непрыяцельскі строй. Набіраліся Г. з заможнай шляхты. Мелі адборных коней і лепшую зброю — прылбіцы, панцыр, тарчы і дзіды, часам шышакі і агнястрэльную зброю. У 17 ст. ў Г. быў больш багаты рыштунак: металічны каптан (ці кіраса), шышак, нарукаўі, дзіда, шабля, канчар (рапіра), 1—2 пісталеты, чакан ці баявы малаток. Існавалі асобныя харугвы «крылатых Г.». Крылы мацаваліся за спінаю да металічных даспехаў конніка або да тыльнай часткі сядла і прызначаліся перш за ўсё для псіхалагічнага ўздзеяння на непрыяцеля. Часта шышак гусара і нагалоўе каня аздабляліся чорнымі пёрамі. У ВКЛ харугвы Г. існавалі да канца 18 ст. Гэта конніца мела высокія баявыя якасці, скарыстоўвалася пераважна ў войнах з Маскоўскай дзяржавай і Швецыяй. Першай вял. бітвай на Беларусі, у якой удзельнічалі гусарскія харугвы, была *Аршанская бітва 1514*.


Да арт. **Гусары**. Гусарскі даспех. 2-я пал. 17 ст.

*Літ.*: Kotarski H. Wojsko polsko-litewskie podczas wojny inflanckiej 1576—1582 // Studia i materiały do historii wojskowości. 1970—72. T. 16—18; Wisner H. Wojsko litewski I połowy XVII wieku. Cz. 1—3 // Там жа. 1973—78. T. 19—21.

***Генадзь Сагановіч.***

**Гусоўскі** Мікола (1470-я г.—пасля 1533), беларускі і польскі паэт-гуманіст эпохі Адраджэння, прадстаўнік новалацінскай паэзіі. Найб. верагодна, паходзіў з сям'і селяніна-паляўнічага з в. Уса (Усава) цэнтр. Беларусі. У сталыя гады жыў у Польшчы, служыў пры двары свайго мецэната плоцкага біскупа Эразма *Цёлака*. Паводле выяўленага ў Варшаве тастамента С.Гальшанскай, складзенага ў 1518 у Воўпе пад Ваўкавыскам і заверанага Г., паэт у той час меў духоўны сан (называў сябе клерыкам Перамышльскай рымска-каталіцкай епархіі) і часам выконваў абавязкі публічнага натарыя. У 1520—22 у складзе пасольства да папы Льва X, якое ўзначальваў Эразм Цёлак, пабываў у Рыме, дзе напісаў на лац. мове паэму «Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго» («Carmen de statura feritate ac venatione bisontis») і шэраг вершаў (выдадзены ў Кракаве ў 1523). Апошнія гады жыцця правёў




Тытульны ліст «Песні пра зубра» М.**Гусоўскага**. Кракаў, 1523.

у Польшчы, цяжка хварэў, але займаўся літ. дзейнасцю. Напісаў і выдаў паэмы «Новая і славутая перамога над туркамі ў ліпені месяцы» (1524), «Жыццё і подзвігі св. Гіяцынта» (1525) і інш. Г. — заснавальнік лацінамоўнай рэнесансавай паэзіі Беларусі, стваральнік першай, адрасаванай еўрапейскаму чытачу рэалістычнай ліра-эпічнай паэмы пра нашу краіну — «Песня пра зубра». Змест твора заснаваны на асабістых назіраннях, уражаннях і перажываннях аўтара, вылучаецца багаццем, арыгінальнасцю і самабытнасцю, цеснай сувяззю з бел. рэчаіснасцю, глыбокім патрыятызмам. З вял. мастацкай сілаю апісаў прыроду роднага краю (называе яго Літвою) і паляванне на зубра, гістарычна дакладна і праўдзіва падаў і ўславіў ратныя і працоўныя справы свайго народа, яго гераічнае мінулае. Вобраз зубра — сімвал Бацькаўшчыны. Аўтар асуджае братазабойчыя войны, антынародную палітыку ўладароў, заклікае хрысціянскія народы Еўропы да яднання перад турэцкай пагрозай. У паэме выявіўся рэнесансавы эстэтычны ідэал паэта з яго верай у дзейнага, гарманічна развітога, духоўна і фізічна дасканалага чалавека. «Песня пра зубра» — каштоўная крыніца для вывучэння біяграфіі аўтара і яго поглядаў, пазнання эпохі, у якую ён жыў, прыроды, этнаграфіі, асаблівасцей духоўнага жыцця і побыту нашых продкаў, іх заняткаў, вераванняў, гісторыі Беларусі на мяжы сярэдневякоўя і Адраджэння. Г. стварыў станоўчы ў эпічных традыцыях вобраз вял. князя Вітаўта як магутнага і справядлівага валадара, таленавітага палкаводца і мужнага воіна, што ў многім пераклікаецца з летапісным. Іншыя творы Г. таксама нясуць пэўную гіст. інфармацыю. На бел. мову «Песню пра зубра» пераклалі Я.Семяжон (Полымя. 1969. № 6) і У.Шатон (Спадчына. 1991. № 2). Іншыя творы Г. перакладзены таксама на польск., рус., літ., укр. мовы.

*Тв.*: Песня пра зубра. Мн., 1973; Песня пра зубра. Мн., 1980; Верш на ахвяраванне чорнага быка ў Рыме, учыненае публічна нейкім грэкам дзеля супрацьстаяння чуме // Крыніца. 2001. № 8; Малітва да святой Ганны; Пра чутку, што нечакана ўзнікла ў касёле святога Лаўрэнція ў Дамасе; Да святога Себасцьяна // Наша вера. 2001. № 4; Шматшаноўнаму [біскупу] Плоцкаму Суцяшэнне // Studia philologica: Сб. научных статей. Мн., 2002. Вып. 5.

*Літ.*: Конон В.М. От Ренессанса к классицизму. Мн., 1978; Дорошкевич В.И. Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Первая половина XVI в. Мн., 1979; Порецкий Я.И. Николай Гусовский. Мн., 1984; Калеснік У.А. Мікола Гусоўскі // Гісторыя беларускай літаратуры: Старажыт. перыяд. Мн., 1985; Ochmański J. Narodowość Mikołaja Hussowskiego w świetle jego autografu // Słowiańszczyzna i dzieje powszechne. Warszawa, 1985; Некрашэвіч-Кароткая Ж.В. Мікалай Гусоўскі і яго паэтычны зборнік у бел. літаратуразнаўстве // Веснік БДУ. Сер. 4. 2002. № 2.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**гута** (лац. gutta кропля), старая назва шклозаводаў. Будаваліся пераважна на берагах рэк, дзе былі якасныя пяскі, мел, добрыя гліны, паліўныя рэсурсы. Час узнікнення большасці Г. невядомы. Вытворчасць бел. шкла вядома з 12 ст. У сярэдневякоўі шкларобства з'яўлялася выключна гарадскім рамяством (Берасце, Віцебск, Гародня, Клецк, Клімавічы, Крычаў, Лагойск, Магілёў, Менск, Мсціслаў, Орша, Пінск, Полацк, Слуцк, Чачэрск, Шклоў і інш.), з 14 ст. пашыраецца ў вёсках, у «дварах гаспадарскіх», дзе гутнікі, шкляры займаліся вытворчасцю шкляных вырабаў на патрэбу феадалаў. Асабліва распаўсюдзіліся Г. ў 16—18 ст. у ВКЛ, у гэты час на тэр. Беларусі вядома каля 70 Г., у т.л. ў мяст. Белая, Беліца, Любча, Радунь, Шыдлавец (Вял. Шылавічы) на Гарадзеншчыне; Грэск, Івянец, Ілья, Койданава, Магільна, Мікалаеўшчына, Налібакі, в. Паняцічы, мяст. Урэчча на Меншчыне; каля Камянца, в. Лыскава, мяст. Мыш (Новая Мыш) на Берасцейшчыне; в. Батаева, Елізавеціна, Лубянка, Ушакі на Магілёўшчыне; мяст. Беліца (Беліцк), в. Буда Пясочная, Мікалаеўка, Хізы, Шарсцін на Гомельшчыне; мяст. Дзісна, Друя, г. Копысь на Віцебшчыне і інш. Г. сталі базай, на якой утварыліся шкляныя мануфактуры з падзелам працы і спецыялізацыяй майстроў, на іх працавала да 60 працаўнікоў. У канцы 18—пач. 19 ст. самымі буйнымі былі *Налібоцкая шкляная мануфактура*, *Урэцкая шкляная мануфактура*, а таксама прадпрыемствы ў мяст. Беліца Быхаўскага пав., маёнтку Ілья Вілейскага пав., Крычаве і Гарадзенская мануфактура А.Тызенгаўза. З удасканаленнем тэхналогіі шкловытворчай прам-сці і ўводам новых плавільных печаў у 19 ст. мануфактуры саступілі месца заводам. Ад назвы Г. захавалася тэхніка вырабу шкляных рэчаў уручную — гутнае шкло. 43 вёскі на Беларусі маюць назву Г. або вытворную ад яе.

*Літ.*: Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966; Жаврид М.Ф. Белорусское стекло. Мн., 1969; Яніцкая М.М. Вытокі шкларобства Беларусі. Мн., 1980.

***Таццяна Скрыпчанка.***

**Гутэн-Чапскі** Эмерык Карлавіч, гл. *Чапскі Э.К.*

**Гуцэвіч** Лаўрын [1753 (ахрышчаны 5.8.1753), в. Міганцы, Вількамірскі пав.—21.12.1798], архітэктар. Сын селяніна Шымана Стокі, пасля набілітацыі ў 1790 атрымаў шляхецтва з гербам «Сыракомля» і стаў ужываць прозвішча Монтрым-Гуцэвіч. Вучыўся ў піярскай школе ў Панявежы, з 1773 — у віленскіх семінарыі і акадэміі (архітэктуру вывучаў у М.Кнакфуса). Дзякуючы апецы віленскага біскупа І.Масальскага ў 1775 выехаў у Варшаву, у 1776—77 у Рыме. Выкладаў матэматыку ў Віленскай семінарыі. З 1778 разам з Масальскім вандраваў па Еўропе (Германія, Швецыя, Данія, Францыя). У 1779—80 вучыўся ў Парыжы (наведаў яго яшчэ раз у 1785). У 1788 уступіў у масонскую ложу «Руплівы літвін». З 1794 праф. цывільнай архітэктуры Гал. школы ВКЛ. У арганізаванай Я.Ясінскім школе корпуса артылерыі выкладаў архітэктуру і тапаграфію. Быў адным з блізкіх паплечнікаў Ясінскага па падрыхтоўцы *паўстання 1794*. У час паўстання ўзначаліў муніцыпальную гвардыю Вільні і камандаваў



ёю ў бітве пад Солямі 26.6.1794; паранены ў баі пад Воранавам. Пасля паўстання з дазволу М.В.Рапніна працягваў выкладаць. Г. — найб. значны архітэктар ВКЛ, які працаваў у стылі класіцызму. Меў вялізны ўплыў на развіццё архітэктуры Вільні і Віленшчыны. Перанёс у ВКЛ дасягненні парыжскай школы класіцызму. Па даручэнні Масальскага ў 1780-х г. пабудаваў яго загарадную рэзідэнцыю ў Верках (гл. *Веркаўскі палац*). Аўтар праекта перабудовы Віленскай ратушы і Віленскага кафедральнага касцёла. Працаваў таксама для Радзівілаў, Сапегаў, Пацеяў, Пацаў, Храптовічаў, Хамінскіх, Сцыпіёнаў, Тызенгаўзаў, Несялоўскіх, Солтанаў, Карпаў і інш. Магчыма, аўтар перабудовы біскупскага палаца ў Вільні. На Беларусі паводле яго праекта пабудаваны *Маляціцкі касцёл* (умоўная копія касцёла св. Пятра ў Рыме, паменшаная ў 8,2 раза).

*Літ.*: Budreika E. Architektas Laurynas Stuoka Gucevicius. Vilnius, 1954; Яго ж. Działalność architektoniczna Wawrzyńca Gucewicza: Wybrane zagadnienia // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1991. T. 5; Lorentz S. Wawrzyniec Gucewicz // Biuletyn historii sztuki. 1958. № 1; Drėma V. Nieznane materiały do działalności Wawrzyńca Gucewicza... // Там жа. 1966. № 3—4.

***Валерый Пазднякоў.***





**Дабранскі** Флавіян Мікалаевіч [16(28).2.1848, с. Чэрніцы Наваград-Валынскага пав. Валынскай губ., цяпер Украіна—1919], гісторык, археограф, лінгвіст. З сям'і святара. Скончыў Валынскую духоўную семінарыю (1868), Маскоўскую духоўную акадэмію (1872). Выкладаў у Літоўскай духоўнай правасл. семінарыі, Віленскім хрысціянскім настаўніцкім ін-це (з 1833). З 1876 член камісіі па стварэнні Віленскай публічнай б-кі. У 1886—1913 у Віленскай археаграфічнай камісіі (з 1902 старшыня). Член Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (з 1909). З 1914 дырэктар Віленскага яўр. настаўніцкага ін-та. У 1915 эвакуіраваўся з Вільні. Памёр у Пяцігорску. Аўтар прадмоў да 15, 21, 26, 31, 34 тамоў *Актаў Віленскай камісіі*, публіцыст. артыкулаў.

*Тв.*: Каталог предметов Музея древностей, состоящего при Виленской публичной библиотеке. Вильна, 1879 (2 изд. 1885); Путеводитель по Виленской публичной библиотеке. Вильна, 1879 (2 изд. 1904); Словарь особенностей греческих диалектов: дорического, эолийского, ионического и аттического, с образцами этих диалектов. Вильна, 1879; Описание рукописей Виленской публичной библиотеки церковно-славянских и русских. Вильна, 1882; Вильна и ея окрестности. Вильна, 1883; Путеводитель по Вильне и ея окрестностям. Вильна, 1900; Старая и новая Вильна. 3 изд. Вильна, 1904; О литовских татарах. Вильна, 1906.

*Літ.*: Пятидесятилетие Виленской комиссии для разбора и издания древних актов, 1864—17/IV—1914: Юбилейная зап. Вильна, 1914. С. 12—14; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 113—115; Mienicki R. Wileńska komisja archeograficzna (1864—1915). Wilno, 1925. S. 112—113.

***Уладзімір Міхнюк.***

**Дабучын,** гл. *Пружаны*.

**Дабшэвіч** Бенядзікт (12.3.1722, Жамойць—1799), філосаф, тэолаг, прадстаўнік эклектычнай філасофіі на Беларусі і ў Літве. З 1739 езуіт. Адукацыю атрымаў у Навагародскім езуіцкім калегіуме і Віленскай езуіцкай акадэміі. З 1753 выкладаў рыторыку, матэматыку, гісторыю, логіку, метафізіку, этыку у Крожскім і Навагародскім калегіумах, Віленскай акадэміі, у 1772—73 дэкан тэалагічнага факультэта акадэміі, у 1773—74 віцэ-канцлер акадэміі. З 1782 узначальваў акруговую школу ў Крожах, у 1792—94 рэктар Жамойцкай школьнай акругі. У 1760 выдаў кнігу «Погляды новых філосафаў...», якая складаецца з яго лекцый у Навагародскім калегіуме. У гэтай кнізе ён выкладаў сістэмы Р.Дэкарта, П.Гасендзі і тэорыі І.Кеплера, І.Ньютана і інш. У 1761 у Вільні выйшла яго кніга «Лекцыі па логіцы...», у якой ён сцвярджаў, што класічная логіка з шанаваннем ставіцца да матэматыкі, без якой філасофстваваць ці лагізіраваць «усё роўна, што хадзіць без ног». У логіцы наследаваў школе Пар-Раяль, Х.Вольфу і Ф.Брэшскаму. Даволі дакладна выкладаў погляды еўрапейскіх філосафаў і натуразнаўцаў (напр., геліяцэнтрычную сістэму Каперніка і яго паслядоўнікаў). Прызнаваў 3 віды пазнання: гістарычнае, філасофскае і матэматычнае. У філасофскіх поглядах прытрымліваўся картэзіянства пазнейшага часу, спалучаў тэалагічны светапогляд з новафіласофскімі поглядамі, што не магло не прывесці да ўнутраных у яго сістэме супярэчнасцей, якія найбольш выразна выявіліся ў яго кнізе «Тэзісы ва універсальную філасофію» (1763). Відаць, зрабіў уплыў на філасофскія погляды А.*Доўгірда*.

*Тв.*: Рус. пер.: Взгляды новых философов // Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991.

*Літ.*: Дорошевич Э. Натурфилософские взгляды Добшевича // История и методология естествознания. Мн., 1966; Очерки истории философской и социологической мысли Белоруссии (да 1917 г.). Мн., 1973; Цукерман А.Я. Бенедикт Добшевич (1722—ок. 1794) // Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991.

***Энгельс Дарашэвіч.***

**Давойна** Станіслаў (?—1573), дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Сын мерацкага старасты С.Давойны. У маладосці служыў пры кіеўскім ваяводзе А.Неміровічу, удзельнічаў у барацьбе з татарамі і маскоўскім войскам. У 1528 стаў каморнікам каралевы Боны, у 1530 — каралеўскім дваранінам. Ад Неміровіча атрымаў зямельныя ўладанні, пабагацеў і ў 1539 выстаўляў са сваіх зямель 96 узброеных коннікаў. 24.5.1542 прызначаны на пасаду полацкага ваяводы. Старанна выконваючы ваяводскія абавязкі, сачыў за абараназдольнасцю полацкіх умацаванняў, пабудаваў новы паркан за Вял. і Запалоцкім пасадамі, павялічыў конную службу Полацкага замка, клапаціўся аб гасп.



развіцці Полацкай зямлі, спрыяў пераходу заслужаных людзей у шляхецкае саслоўе. У 1553 узначальваў пасольства ВКЛ у Маскву, якое прадоўжыла перамір'е паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай яшчэ на 2 гады. Калі ў час *Інфлянцкай вайны 1558—82* у студз. 1563 65-тысячнае маскоўскае войска на чале з Іванам IV падышло да Полацка і аблажыла яго, Д. кіраваў 2-тыднёвай абаронай горада (гл. *Полацка абарона 1563*). У абаронцаў былі занадта малыя сілы, а Д. да таго ж зрабіў некалькі тактычных памылак, таму, не атрымаўшы ніякай дапамогі, мусіў здаць Полацк маскоўскаму цару. У якасці палоннага разам з жонкай Петранелай (з роду Радзівілаў), уладыкам Арсеніем і шляхтай высланы ў Маскву, дзе жонка памерла. Вярнуўся ў ліп. 1567 дзякуючы намаганням вял. князя Жыгімонта II Аўгуста. Астатнія гады жыцця быў пасіўны, функцыі ваяводы выконваў намінальна. У 1568 ажаніўся з Даротай (з роду Касцевічаў), удавой князя Я.Галаўчынскага, а пасля яе смерці з Барбарай (з роду Саламярэцкіх), удавой К.Хадкевіча. Удзельнічаў у рабоце Люблінскага сойма 1569.

***Генадзь Сагановіч.***

**Давыд** (каля 1283—1326), палкаводзец і дзяржаўны дзеяч ВКЛ, староста гарадзенскі. Сын нальшчанскага князя *Даўмонта*, які ў 1266 ад'ехаў разам з дваром і 300 баярамі з Крэва ў Пскоў пасля крывавай міжусобнай барацьбы з *Міндоўгам*, і княжны Марыі Дзмітрыеўны, унучкі Аляксандра Неўскага. Пасля смерці бацькі ў 1299 перайшоў у Гародню, дзе паступіў на службу да кн. *Гедзіміна*. Быў кашталянам Гарадзенскага замка. Ажаніўся з дачкою Гедзіміна Бірутай і атрымаў права на карыстанне асобным удзелам. У 1305 разам з Гедзімінам разбіў каля Гародні войскі каменданта Брандэнбурга комтура Конрада Ліхтэнхагена. У 1306 узначаліў паспяховую абарону Гарадзенскага замка, які аблажылі 6 тыс. лёгкіх коннікаў і сотня цяжкаўзброеных рыцараў пад камандаваннем комтура Караляўца (Кёнігсберга) Эберхарда Вірненбурга. У 1314 разбіў крыжакоў, што аблажылі Навагародак, і знішчыў увесь варожы абоз, захапіў 1500 коней і ваен. амуніцыю. У 1318 (1319?) узначаліў паход гарадзенцаў на Прусію, у веснавую паводку заваяваў вобласць Вагенштоф, якую абаранялі комтуры Ульрых Дрымбе і Фрыдрых Квітц. У 1322 дапамог Пскову ў барацьбе з Лівонскім ордэнам, у 1323 разбіў пад яго сценамі дацкае войска і дайшоў да Рэвеля. У тым самым годзе яшчэ раз адкінуў ад Пскова ням. рыцараў, якія асаджалі горад 18 дзён, а потым разбіў іх. У 1324 арганізаваў паход войск ВКЛ на Мазовію. У 1326 на чале атрада з 1200 коннікаў, сярод якіх былі і палякі, зрабіў кінжальны рэйд на Брандэнбург і Франкфурт-на-Одэры. У час гэтага пераможнага паходу немцы падкупілі мазавецкага рыцара Андрэея Госта, і той па-здрадніцку забіў Д. Пахаваны каля сцен Барысаглебскага манастыра ў Гародні.

*Літ.*: Антонович В.Б. Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1885. С. 41—43; Орловский Е.Ф. Гродненская старина. Ч. 1. Гродна, 1910.

***Міхась Ткачоў.***

**Давыд-Гарадок** (цяпер горад у Столінскім р-не, Рэспубліка Беларусь), горад у Пінскім пав., на р. Гарынь. Паводле археал. даных, узнік у пач. 12 ст. З 1382 упамінаецца ў пісьмовых крыніцах як цэнтр удзельнага *Давыд-Гарадоцкага княства* ў складзе ВКЛ. Належаў княжацкай дынастыі няпэўнага паходжання. Ад аднаго з уладальнікаў, князя Давыда Дзмітрыевіча (мяжа 14—15 ст.) горад атрымаў назву Д.-Г. (Гарадок Давыдаў, раней называўся Гарадок). Магчыма, каля 1447 княства і горад атрымала ад вял. князя Казіміра жонка вял. князя Свідрыгайлы Ганна Іванаўна з роду цвярскіх князёў. Пасля яе смерці (да 1486) Д.-Г. зноў перайшоў да вял. князёў. У канцы 15— пач. 16 ст. горадам і княствам валодалі князі *Яраславічы*, у 1522—56 – каралева Бона, з 1558 – князі Радзівілы. У 1503 пад Д.-Г. разбіты крымскія татары. У 1507 упамінаецца Дзмітрыеўская царква. Рэвізія 1559 называе ў горадзе Дзмітрыеўскую, Васкрасенскую, Мікалаеўскую, Казьмадзям'янаўскую цэрквы. З 1565 у складзе Пінскага пав. Берасцейскага ваяв. З 1586 у складзе Клецкай ардынацыі — буйнога маёнтка Радзівілаў. Неаднаразова аддаваўся Радзівіламі ў трыманне і арэнду прадстаўнікам буйной шляхты. У горадзе каля ўпадзення ў Гарынь р. Чартарыя (Няволя, Няпраўда) існавалі Верхні (Горны) і Ніжні (Дольны) замкі з дрэва-земляных умацаванняў. У 1596 горад захоплены казакамі ў час *Налівайкі паўстання 1595—96.* У час *антыфеадальнай вайны 1648—51* горад – цэнтр *Давыд-Гарадоцкага паўстання 1648—49.* У 1653 у горадзе 29 рамеснікаў 17 прафесій. У 17—18 ст. значны гандлёвы цэнтр. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* войскі стольніка Дз.А.Валконскага на рачных суднах, што выйшлі з Кіева, 26.9.1655 разбілі пад Д.-Г. атрад шляхты (400 чал.) і мяшчан (300 чал.) і на кароткі час захапілі горад, які спалілі. Пасля горад зноў захоплены. У пач. 1660 войскі ВКЛ на чале з С.Аскеркам і Д.Мурашкам вызвалілі Д.-Г. У 1663 у Д.-Г. 362 дымы, каля 3 тыс. жыхароў, у 1675 былі 2 царквы і 1 касцёл. У 1691 у горадзе 52 рамеснікі. У 2-й пал. 17 ст. пабудавана драўляная Георгіеўская царква, перароблена ў 1724 (зберагласся). З 1791 у Запінскім пав. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Грицкевич А.П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (социально-экономическое исследование истории городов). Мн., 1975; Максімава Э.С. Давыд-гарадоцкія злотнікі XVII—XVIII стст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989; Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 41—47; Mikulski W., Zawadzki J. Opisy zamków białoruskich z inwentarzy dóbr przechowywanych w Archiwum Radziwiłłów w Archiwum Głównym Akt Dawnych. Warszawa, 1999.

***Валерый Пазднякоў.***

**Давыд-Гарадоцкае княства** (да канца 15 ст. наз. Гарадзецкае княства), феадальная адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ у 14—16 ст. у нізоўях р. Гарынь. Цэнтр – г. *Давыд-Гарадок*. Вядома з 1382, калі дачка вял. князя Альгерда Марыя выйшла замуж за гарадзецкага князя Давыда Дзмітрыевіча. Каля 1390 у дакументах згадваюцца гарадзецкія князі Іван і Юрый, напэўна, Рурыкавічы, нашчадкі мясц. дынастыі Ізяславічаў. Да 1440 княствам валодаў князь Мітка Давыдавіч, сын Давыда Дзмітрыевіча. Магчыма, каля 1447 княства і горад атрымала ад вял. князя Казіміра жонка вял. князя Свідрыгайлы Ганна Іванаўна з роду цвярскіх князёў (памерла да 1486). Да 1492 Казімір падараваў Д.-Г.к. выхадцу з Расіі князю Івану Васілевічу Яраславічу (гл. ў арт. *Яраславічы*), а пасля яго смерці (1507) яно адышло да яго сына Фёдара (памёр паміж 1520 і 1522). Як вымарачнае ўладанне належала вял. князю Жыгімонту Старому, які ў 1522 перадаў яго сваёй жонцы Боне Сфорца (адпаведная грамата была выдадзена яшчэ ў 1519). З таго часу Д.-Г.к. – састаўная частка *Пінскага княства* Боны. У 1554 у Д.-Г.к. праведзена валочная памера. З 1556 яно пад кіраваннем велікакняжацкай ад-



міністрацыі. У 1558 вял. князь Жыгімонт Аўгуст перадаў яго князям Радзівілам (адпаведная грамата выдадзена ў 1551), якія на аснове Д.-Г.к. і *Клецкага княст-ва* ўтварылі ў 1586 Клецкую ардынацыю.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Очерки истории литовско-русского права: Образование территории Литовского гос-ва. СПб., 1894; Грушевский А.С. Пинское Полесье: Ист. очерки. Киев, 1903.

***Валерый Пазднякоў.***

**Давыд-Гарадоцкае паўстанне 1648—50**, выступленне гараджан і сялян у *антыфеадальную вайну 1648—51*. Пачалося 3.10.1648 выступленнямі сялян вёсак Будымлі, Бухлічы, Варані, Векаровічы, Старое Сяло, Струга, гараджан Давыд-Гарадка, мяст. Гарадзец. Паўстанцы, узброеныя стрэльбамі, шаблямі, рагацінамі, стварылі на казацкі манер атрады, выбіралі са свайго асяроддзя палкоўнікаў, сотнікаў. Паўстанне ўзначаліў войт Давыд-Гарадка І.Багдашэвіч, выбраны палкоўнікам; яго памочнікі: гараджане Г.Чапуга, І.Дзядашка, Ф.Максімовіч, сяляне Я.Паповіч, М.Вайтовіч, В.Муха і інш. Паўстанне хутка пашыралася і ў кастр.-снеж. 1648 ахапіла ўсю Давыд-Гарадоччыну і суседнюю частку Пінскага пав. Паўстанцы грамілі маёнткі магнатаў, шляхты, духавенства, знішчалі дакументы на правы іх уладанняў, размежавальныя лісты, інвентары пра павіннасці сялян, даўгавыя абавязацельствы, квітанцыі аб падатках, забіралі збожжа, жывёлу, вызвалялі сялян ад прыгону. Паўстанцы больш за 2 гады кантралявалі Давыд-Гарадоччыну. Задушана войскамі Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Копысский З.Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978.

***Зіновій Капыскі.***

**Давыд-Гарадоцкі замак.** Існаваў у 14—18 ст. у г. *Давыд-Гарадок*. Узнік на месцы стараж. дзядзінца, на высокім правым беразе р. Гарынь, на асобным узгорку, які з 3 абгінала Гарынь, з Пд — невялікая р. Няпраўда (Чартарыя, Няволя), з У да яго прымыкала балоцістая лугавіна; з Пн Замкавую гару ад карэннага берага аддзяляў вузкі і глыбокі роў (цяпер заплыў). Замкавая гара ўзвышалася на 3—5 м над узроўнем вады ў Гарыні, мела амаль круглую пляцоўку дыяметрам 100—110 м, абкружаную магутным земляным валам, насыпаным з рачнога пяску. Унутры насыпу ступеньчата размяшчаліся драўляныя перакладныя канструкцыі, якія падтрымлівалі зададзеную стромкасць схілаў, асабліва знешняга. Вышыня такіх сасновых сцен-эскарпаў унутры дасягала 1 м. Дакладная вышыня абарончага вала і яго параметры ў 15—18 ст. невядомы. Уцалелыя часткі былога вала маюць вышыню каля 2 м і шырыню ў аснове да 10 м. Гісторыя ўмацаванняў Давыд-Гарадка адлюстравана ў 15 падрабязных інвентарах горада і воласці. Найб. старажытны датуецца 1605. У гэты час вакол замка стаяў паркан, які меў выгляд гародняў, накрытых драніцамі. Згадваецца і ўчастак «стоячага паркану» (частаколу). З боку ўезду ў замак з горада ў паркане была вежа з брамаю без даху, узведзеная замест ранейшай. Акрамя таго, у паркане стаялі старыя «башты», 5 старых і разбураных «вежак». Пры ўваходзе ў замак з размешчанага перад ім «двора» неабходна было перайсці «мост немалый», які вёў да выязной брамы з пад'ёмным мостам на ланцугах. На замкавым панадворку злева знаходзіліся 9 моцна апалых і пагнілых гародняў без дзвярэй. Упамінаюцца яшчэ 2 вежы: адна мела ўваход з размешчаных паблізу яе гародняў, другая згніла і была адбудавана толькі да паловы. Інвентар адзначае, што будаваць павінна была шляхта. Паводле інвентара 1631, мяшчане з дапамогай сялян валасцей будавалі ў лініі замкавых умацаванняў 55 сажняў паркану і «башты при своем прясле». Акрамя таго, мяшчане абавязаны былі з боку горада ўмацаваць палямі і сухім галлём падэшву Замкавай гары — «капца», каб яго не падмывала вада. Інвентары 1653, 1665 і інш. гады сведчаць, што акрамя моста цераз Няволю, які быў размешчаны з Пн і звязваў замак з горадам, існаваў яшчэ адзін мост, што падводзіў да замкавага паркана з Пд. Пра гэта, відаць, сведчыць і разрыў паміж валамі, які да нашага часу захаваўся на гарадзішчы. Інвентары 1670 і 1675 паведамляюць пра існаванне ў Давыд-Гарадку 2 замкаў — «Горнага» (Верхняга) і «Дольнага» (Ніжняга). Першы быў абнесены высокім валам і абкружаны вадой. На яго тэрыторыі стаяў толькі «дом кухонны», а ўсё астатняе было знішчана ў вайну з Расіяй 1654—67. «Дольны» замак меў парканную агароджу. Агульная даўжыня лініі ўмацаванняў абодвух замкаў складала 20 шнуроў (980 м), з якіх на Верхні замак прыпадала 9 шнуроў і 1 прут (каля 466), на Ніжні — 10 шнуроў і 9 прутоў (каля 534 м). У лініі ўмацаванняў называюцца «вывады», якія, відаць, выконвалі ролю або патаемных хадоў за межы фартыфікацыі або бастыёнаў, што больш верагодна. Усе 980 м фартыфікацыі падзяляліся на 5 частак, адну з якіх узводзілі мяшчане, другую — Замкавая вол., трэцюю — Палеская вол., чацвёртую — Манькаўская вол., пятую — шляхта і зямяне. У 1675 з горада ў Ніжні замак можна было трапіць па перакінутым цераз роў мосце. Уваход на мост запіраўся варотамі, ад якіх па новым мосце на палях цераз Чартарыю дарога вяла ў Верхні замак праз напалову ўзведзеную дубовую браму. Пасярод замкавага двара месцілася студня з дубовым зрубам. Абодва замкі абкружаў новы дубовы паркан. У 1681 і пазней мост у Верхні замак узвялі на «ізбіцах-зрубах». Наступныя інвентары да 1760 сведчаць пра паступовае запусценне і разбурэнне Ніжняга і Верхняга замкаў, якія з цягам часу ператварыліся з цэнтра абароны ў рэзідэнцыю адміністратараў латыфундыі Радзівілаў. Да 1702 у інвентарах пастаянна сустракаюцца звесткі пра ваенна-будаўнічыя павіннасці мясц. насельніцтва, але, відаць, Паўн. вайна 1700—21 канчаткова зняла іх з парадку дня. З 1702 радзей гаворыцца пра вежы, але пра паркан, што стаяў «на валу кругом», яшчэ ёсць звесткі на працягу 1-й чвэрці 18 ст. Сустракаецца інфармацыя пра ўмацаванне ўязной вежы — брамы замка. У інвентарах за 1728—34 часта ўпамінаецца замкавая «вялікая брама з залкай наверсе», па баках якой стаялі 2 фланкіруючыя вежы. Пазней яе змяніла звычайная драўляная брама з 2 кардэгардамі і варотамі. Вароты адчынялі і запіралі доступ на замкавы панадворак, дзе ў акружэнні гасп. будынкаў стаяў палац адміністратараў. Такі выгляд замкавага двара зафіксаваў у апошні раз інвентар Давыд-Гарадка за 1793. Помнік вывучалі ў 1937—39 Р.Якімовіч, у 1961 П.А.Рапапорт, у 1967 П.Ф.Лысенка.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Міхась Ткачоў.***

**Давячоравічы** (цяпер Драгічын, горад, цэнтр Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Пінскім пав. Берасцейкага ваяв. Упершыню ўпамінаецца пад 1452 як сяло ў *Пінскім старастве*. Паводле даравальнага запісу 1450—60-х г. пінскі князь Юрый Сямёнавіч Нарымонтавіч абавязаў жыхароў Д. аддаваць на карысць Дружы-



лавіцкай царквы 2 вядры мёду. У інвентары Пінскага староства 1552 упамінаецца Давячораўскае войтаўства. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 у *Пінскім павеце*. У 1-й пал. 17 ст. ўладанне Л.Сапегі, перададзенае ім Д. Я.У.Нявельскаму, які заснаваў тут у 1623 царкву Прачыстай Багародзіцы. У 1623 сяло атрымала правы мястэчка. У 1655 упершыню ўпамінаецца як Драгічын (у далейшым сустракаецца і форма Дарагічын). У дакументах 1669, 1713 і інш. ёсць звесткі пра Давячораўскі маёнтак, які ў апошняй чвэрці 18 ст. называўся графствам. У 1749 пінскі маршалак М.Ажэшка заснаваў тут францысканскі кляштар. У інвентары 1778—79 Д. названы горадам, 416 ж., 68 дамоў. Магчыма, у 2-й пал. 18 ст. тут існавала ратуша.

*Літ.*: Памяць: гіст.-дакум. хроніка Драгічынскага р-на. Мн., 1997.

***Валерый Грынявецкі.***

**дагавор 1219**, мірнае пагадненне, заключанае паміж Уладзіміра-Валынскім княствам і Літвой па ініцыятыве літоўскіх князёў у канцы 1219 ці пач. 1220. У Валынскім (Іпацьеўскім) летапісе пад 6723 г. «ад стварэння свету» (дата памылковая) прыведзены пералік князёў, што падпісалі Д., які, напэўна, быў узяты складальнікам летапісу з арыгінала. Пералік каштоўны тым, што адлюстроўвае паліт. стан літ. зямель. У ім фігуруюць 5 груп князёў — уладальнікаў асобных, але ўжо не раўнапраўных княстваў. 5 прадстаўнікоў 1-й групы названы «старэйшымі», прычым парадак пераліку дазваляе меркаваць пра роднасныя сувязі паміж імі. Відаць, гэта былі прадстаўнікі аднаго княжацкага роду, які на той час палітычна дамінаваў над іншымі. Узначальваў яго Жывінбуд, пасля якога пералічаны 2 пары братоў: Даўят (ці Даўял) з Вілікайлам і Даўспрунк з Міндоўгам. Магчыма, гэта былі маладыя сыны 2 старэйшых братоў Жывінбуда, якія на той момант памерлі і пасля якіх ён стаў старэйшым у родзе. 2-ю групу ўтвараюць 2 князі, названыя жамойцкімі (Эрдзівіл і Выкінт); гэта сведчыць пра ўваход Жамойці ў склад Літвы і яе паліт. залежнасць ад Жывінбуда і яго суродзічаў. 3-ю групу ўтвараюць 6 князёў, названых Рушкавічамі: Кінцібут, Ванібут, Бутавіт, Віжэйк з сынам Вішліем, Кіцений, а таксама Плікосава — напэўна, удава памерлага Плікосы. Яны належалі да іншага роду, які таксама падпарадкоўваўся роду Жывінбуда. Шматлікасць гэтых князёў паказвае, што іх уладанні былі моцна раздробненымі, напэўна, у выніку падзелу вотчын па бацькоўскай лініі, як гэта адбывалася і ў рус. князёў. Разам з тым наяўнасць у спісе жанчыны сведчыць пра пэўныя асаблівасці спадчыннага права літоўцаў: удава да паўторнага шлюбу кіравала мужавай вотчынай і лічылася роўнай з мужчынамі. 4-я група князёў, таксама роднасных паміж сабой, выступае пад імем Булевічы. З іх названы Вішымут, пасля імя якога складальнік летапісу зрабіў прыпіску пра больш позні падзеі: «его же уби Миндовг и жену его поял и братью его побил Едивила, Спрудейка». Трэба меркаваць, што браты Вішымута таксама былі ўдзельнікамі Д. Іх лёс сведчыць, якім чынам адбывалася ўзвышэнне Міндоўга. Апошнюю групу ўтвараюць 4 князі, што сумесна валодалі Дзяволтвай (пазнейшы Вількамірскі пав. ВКЛ), і таксама, напэўна, былі суродзічамі: Юдзькі, Пукеік, Бікшы, Лікіік. Непасрэдным вынікам Д. стаў напад Літвы на польскія княствы, з якімі варагавалі галіцка-валынскія князі — удзельнікі Д.: Даніла і Васілька Рамановічы і іх маці Ганна. Магчыма, Літва ініцыіравала Д. з мэтай адкрыць шлях да рабаўнічых набегаў на Польшчу, ад якой яе аддзяля-лі прыналежныя Уладзіміра-Валынскаму княству Падляшша і Берасцейшчына. Падобная палітыка Літвы пазней прасочваецца ў яе адносінах з Полацкім княствам (праз яго тэрыторыю ішлі набегі на Уладзіміра-Суздальскую і Наўгародскую землі), а таксама з Пінскім княствам (тады ахвярай набегаў станавілася Уладзіміра-Валынскае княства).

***Вячаслаў Насевіч.***

**дагавор 1323**, пагадненне паміж вялікім князем літоўскім Гедзімінам з аднаго боку і магістрам Лівонскага ордэна, дацкім намеснікам Рэвельскай зямлі, біскупамі Рыгі, Эзеля, Дорпата і грамадой г. Рыга з другога боку. Заключаны 2 кастр. ў Вільні. Устанаўліваў мірныя адносіны паміж бакамі, абвяшчаў пра свабодны гандаль паміж імі па сухапутным і водным шляхах. Прадугледжваў устанаўленне справядлівага судовага разбору спрэчак, вяртання свавольна адабранай маёмасці купцоў, выдачу збеглых халопаў. Гедзімін у Д. выступае як «кароль Літвы», пад уладай якога знаходзяцца Аўкштайція, Жамойць і рус. землі. У 1324 Д. зацвердзіў рымскі папа. Д. засведчыў выхад ВКЛ на міжнар. арэну і яго прызнанне інш. дзяржавамі. У Рыжскім гар. архіве захаваліся пергаментныя арыгіналы Д. на старанямецкай мове (акты, выстаўленыя з боку Гедзіміна і Лівоніі), цяпер яны зберагаюцца ў Цэнтр. дзярж. архіве Латвіі.

*Літ.*: Послания Гедимина. Вильнюс, 1966. С. 64—75.

***Валерый Пазднякоў.***

**дагавор 1325**, мірнае пагадненне паміж вял. князем літоўскім Гедзімінам і каралём польскім Уладзіславам I Лакатком. Быў скіраваны супраць Нямецкага ордэна, у барацьбе з якім ВКЛ і Польшча абавязаліся аказваць адно аднаму ваенную дапамогу. На заключэнне Д. паўплывала таксама небяспека з боку Залатой арды і сумесныя інтарэсы пры падзеле ўладанняў Галіцка-Валынскага княства: напярэдадні Гедзімін далучыў да свёй дзяржавы Падляшша. Прызнаўшы гэта, Уладзіслаў I разлічваў на ваенную дапамогу з боку ВКЛ і вяртанне ліцвінамі польскіх палонных. Д. быў умацаваны заключэннем шлюбу паміж дачкой Гедзіміна *Альдонай* і сынам Уладзіслава I Казімірам (будучы кароль Казімір III Вялікі). Вынікам Д. стаў удзел ліцвінаў на чале з гарадзенскім старастам *Давыдам* у паходзе Уладзіслава I на Брандэнбург. Выконваючы ўмовы Д., у час крыжацкага нападу ў 1329 на ВКЛ войскі Уладзіслава I увайшлі ў Хэлмінскую зямлю, хоць паміж Польшчай і крыжакамі было перамір'е. Крыжакі ў адказ напалі на Куяўскую зямлю і захапілі Добжынскую зямлю. Сумесны паход войск ВКЛ і Польшчы на Хэлмінскую зямлю ўвосень 1330 скончыўся няўдачай. Пасля саюзныя адносіны паміж ВКЛ і Польшчай спыніліся.

*Літ.*: Zajączkowski S. Przymierze polsko-litewskie 1325 r. // Kwartalnik historyczny. 1926. Z. 4.

***Валерый Пазднякоў.***

**дагавор 1338**, пагадненне паміж Лівонскім ордэнам і ВКЛ. Заключаны ад імя лівонскага магістра і вял. князя літоўскага («караля») *Гедзіміна*. Паводле дагавора па сумежжы абедзвюх краін устанаўлівалася паласа зямлі, на якой павінен захоўвацца заўсёды мір і войска кожнага з бакоў павінна было ўстрымлівацца ад забойстваў і рабаванняў. Купцам ВКЛ і Лівоніі дазвалялася свабодна ездзіць па тэрыторыі абедзвюх дзяржаў, па ўсёй Дзвіне, а таксама па абодвух берагах на адлегласць кінутага кап'я. Дагаворам рэгуляваўся судовы парадак разгляду цывільных і крымінальных



спраў. Тое, што дагавор заключаўся са згоды «епіскапа Полацка, караля і горада Полацка і караля Віцебска і горада Віцебска» сведчыла, што гэтыя княствы дзейнічалі як самастойныя феад. дзяржавы ў садружнасці з ВКЛ. Пра гэта сведчыў і аднолькавы з Гедзімінам каралеўскі тытул полацкага і віцебскага князёў. Д. 1338 працягваў традыцыі дагавораў Полацкага і Віцебскага княстваў з Рыгай і Лівоніяй, якія былі заключаны ў 1229, 1263, 1265, 1309 і інш.

*Літ.*: Послания Гедимина. Вильнюс, 1966. С. 186—195; Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. Вып. 1. М., 1977.

***Язэп Юхо.***

**дагавор 1366**. Заключаны ў канцы жн.—вер. паміж вял. князем літоўскім Альгердам, яго братамі Кейстутам, Яўнутам і Любартам з аднаго боку і польскім каралём Казімірам III Вялікім з другога пасля паходу Казіміра на землі Галіцка-Валынскага княства. Бакі размежавалі свае ўладанні. Любарту пацверджана валоданне Луцкай зямлёй, да якой Казімір далучыў некат. ўладзімірскія валасці (Ветлы, Любязь, Мельніца і інш.). Казімір заставаўся валадаром г. Уладзімір з ваколічнымі валасцямі (Гарадло, Любомль, Турыйск, Ратна і інш.). Альгерд і Любарт саступілі Казіміру валасці Крэменец, Пярэмыль, Алеска, Белз, Грабавец, Холм, Шчабрэшын, Лапацін. Казімір адмовіўся ад прэтэнзій на гарады Кейстута Берасце, Камянец, Дарагічын, Мельнік, Бельск і горад Альгерда Кобрын. Бакі ўзялі на сябе абавязак ваеннай узаемадапамогі. У Гарадле меў збірацца сумесны суд для вырашэння пагранічных спрэчак. Хоць Д. быў заключаны як «вечны мір», бакі прадугледжвалі наступны з'езд для ўдакладнення яго ўмоў. Пасля быў заключаны асобны дагавор паміж Казімірам і Любартам (яго заключэнне М.Грушэўскі адносіць да кастр. 1366, М.Доўнар-Запольскі — да 1368—69). Былі ўдакладнены граніцы ўладанняў Любарта як луцкага князя, выпрацаваны ўмовы ўзаемнага гандлю, удакладнены ваенныя абавязацельствы: Любарт не павінен быў дапамагаць Казіміру ці літ. князям у выпадку канфлікту паміж імі. Д. быў парушаны ў 1368, калі Кейстут напаў на г. Пултуск.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Из истории литовско-польской борьбы за Волынь: (Договоры 1366 года) // Университетские известия. Киев, 1896. № 8.

***Валерый Пазднякоў.***

**дагавор 1449**, пагадненне паміж вялікім князем літоўскім Казімірам і вялікім князем маскоўскім Васілём II Цёмным. Заключаны 31 жн. ў разгар міжусобнай феад. вайны 1425—53 у Маскоўскім вял. княстве. Паводле Д. Казімір абяцаў не аказваць ніякай падтрымкі прэтэндэнту на маскоўскі прастол Дзмітрыю Шамяку і не ўмешвацца ў міжусобіцы Масквы, не прэтэндаваць на Ноўгарад і Пскоў, нават калі тыя будуць «се ... давати» Казіміру, а таксама не ўдзельнічаць у магчымых сутыкненнях Ноўгарада і Пскова з Інфлянцкім ордэнам нават на іх баку. Д. удакладніў мяжу ўладанняў ВКЛ і Маскоўскага вял. княства і фактычна спыніў тэр. экспансію ВКЛ на У. Адносным поспехам Казіміра была адмова Васіля II ад некат. наўгародскіх валасцей, якія традыцыйна «цягнулі» да ВКЛ, і прызнанне за разанскім вял. князем Іванам Фёдаравічам права пераходу на службу да Казіміра. Вынікам Д. быў працяглы (да канца 15 ст.) перыяд мірнага развіцця ВКЛ. Ён зафіксаваў адмову ВКЛ ад прэтэнзій на аб'яднанне ўсіх усх.-слав. зямель, што абумовіла далучэнне да Маскоўскай дзяржавы Ноўгарада (1471) і Цверы (1485) і ўрэшце паражэнне ВКЛ у *вайне Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94*.

*Літ.*: Skopińska Z. Traktat 31 sierpnia 1449 roku w świetle polityki Litwy i Moskwy w latach 1440—1453 // Ateneum Wileńskie. 1928. Z. 15; Духовные и договорные грамоты великих и удельных князей XIV—XVI вв. М.; Л., 1950; Зимин А.А. Витязь на распутье. М., 1991.

***Алесь Белы.***

**дагавор 1501**, саюзнае пагадненне паміж ВКЛ і Лівоніяй. Падпісаны вял. князем літоўскім Аляксандрам 3 сак. ў Вільні і 21 чэрв. лівонскім магістрам Вальтэрам фон Плетэнбергам у г. Вендэн. Д. меў на мэце саюз ВКЛ і Лівоніі супраць Вял. княства Маскоўскага і прадугледжваў сумесныя ваенныя дзеянні (у гэты час ішла *вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*). Заключаўся на 10 гадоў, пасля чаго мог быць пралангаваны. Бакі бралі на сябе абавязак не падпісваць сепаратнага міру з Расіяй. Асобны артыкул здымаў пярэчанні Нямецкага ордэна: у выпадку нападу трэцяй краіны на Лівонію праз Прусію Лівонія мела права выйсці з вайны і заключыць перамір'е з Масквой. У такой завуаліраванай форме ў Д. Прусія засцерагалася ад ваеннага ўмяшання Польшчы. Д. азначаў пераход ВКЛ ад палітыкі падтрымання статус-кво ў Балтыйскім рэгіёне да стратэгічнага супрацоўніцтва з Лівоніяй. У рамках Д. ў 1501—02 на тэр. Пскоўшчыны Лівонія вяла ваенныя дзеянні супраць маскоўскіх войск. З-за дынастычных праблем (смерць польскага караля Яна Альбрэхта і вылучэнне кандыдатуры Аляксандра на польскі трон) ВКЛ не аказала ваеннай дапамогі свайму саюзніку. У 1503 ВКЛ і Лівонія супольна пачалі ў Маскве перагаворы пра перамір'е і ўзгаднялі свае пазіцыі, як таго патрабаваў Д. У маі 1506 у Вільні дзеянне Д. пацверджана Аляксандрам і лівонскімі пасламі ад імя магістра (у сувязі са смерцю вял. князя маскоўскага Івана III Васілевіча). Маскоўскія ўладары і імператар Максімілян I настойвалі на разрыве Д. Традыцыі саюзу 1501 і надалей у 16 ст. ўплывалі на палітыка-дыпламат. дачыненні паміж ВКЛ і Лівоніяй.

*Літ.*: Дзярновіч А. «...in nostra Livonia»: Дакументальныя крыніцы па гісторыі палітычных адносінаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівоніяй у канцы XV—першай палове XVI ст. Мн., 2003.

***Алег Дзярновіч.***

**дагавор 1768**, «Вечны трактат», пагадненне паміж Рэччу Паспалітай і Расійскай імперыяй. Падпісаны пад дыктатам Расіі 13(24).2.1768 у Варшаве дэлегацыяй надзвычайнага сойма Рэчы Паспалітай (у т.л. 24 прадстаўнікамі ВКЛ на чале з маршалкам сойма К.С.Радзівілам Пане Каханку і маршалкам генеральнай канфедэрацыі ВКЛ С.Бжастоўскім) і паслом Расіі М.В.Рапніным. Складаецца з 9 артыкулаў і 2 дадатковых актаў. Д. пацвердзіў тэрытарыяльную цэласнасць абедзвюх дзяржаў у межах, вызначаных *«Вечным мірам» 1686*, і пастанавіў стварыць сумесныя суды для ўрэгулявання памежных спрэчак. Рас. імператрыца Кацярына II была абвешчана гарантам нязменнасці формы праўлення, канстытуцый, вольнасцей і правоў Рэчы Паспалітай, якія замацаваны ў выглядзе *Кардынальных правоў* (выкладзены ў 2-м дадатковым акце Д.). У 2-м дадатковым акце таксама пералічаны т.зв. «стацкія матэрыі» — найважнейшыя дзярж. пытанні, якія маглі вырашацца на звычайных соймах толькі аднагалосна (паводле прынцыпу *ліберум вета*). Д. абвяшчаў Тарунскую канфедэрацыю і *Слуцкую канфедэрацыю* законнымі, скасоўваў



апеку Рыма над унутр. парадкамі правасл. і пратэстанцкіх цэркваў у Рэчы Паспалітай, адмяняў усе дыскрымінацыйныя законы супраць праваслаўных і пратэстантаў, забараняў называць іх ератыкамі, схізматыкамі і адшчапенцамі, не дазваляў прымушаць да змены веры і чыніць дыскрымінацыю па прыкмеце веравызнання, аддаваў забыццю ўсе прэтэнзіі паміж католікамі і іншаверцамі пачынаючы з 1.1.1717, дазваляў праваслаўным і пратэстантам вольнае веравызнанне і культ (выконваць набажэнствы, праводзіць працэсіі, будаваць і рамантаваць храмы, рэгістраваць хрышчэнні, шлюбы і пахаванні, праводзіць візітацыі паствы, збіраць царк. саборы, друкаваць кнігі і інш.). Правасл. шляхце вернуты правы выбірацца ў сойм, займаць соймавыя, міністэрскія, трыбунальскія і інш. судовыя пасады, права трымаць староствы. Д. забараняў сойму без аднагалоснай згоды мяняць падаткі, штат войска, курс манеты, паўнамоцтвы міністраў, сенатараў, дэкрэты трыбуналаў, парадак правядзення соймаў і соймікаў, склікаць паспалітае рушэнне, заключаць міжнар. дагаворы і інш. Д. стаў увасабленнем страты суверэннасці Рэчы Паспалітай і выклікаў узбр. супраціўленне дыктату Расіі, арганізаванае *Барскай канфедэрацыяй*.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 7. 2 wyd. Petersburg, 1860. S. 250—285; Беднов В.А. Православная церковь в Польше и Литве (по Volumina Legum). Екатеринослав, 1908; Стегний П.В. Разделы Польши и дипломатия Екатерины II. 1772. 1793. 1795. М., 2002; Анішчанка Я. Інкарпарацыя: Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мн., 2003.

***Яўген Анішчанка.***

**Дадзіёмава** Вольга Уладзіміраўна (н. 5.8.1955, г. Гомель), беларускі гісторык музыкі. Д-р мастацтвазнаўства (2004). Скончыла Бел. дзярж. кансерваторыю (1978). З 1978 выкладала ў Мінскім ін-це культуры, з 1993 дацэнт Бел. дзярж. акадэміі музыкі. Даследуе гісторыю муз. культуры Беларусі 17—19 ст., займаецца вяртаннем з-за мяжы і ўвядзеннем ва ўжытак помнікаў айчыннага муз. мастацтва. Укладальнік рэпертуарных зб. «Інструментальная музыка Беларусі XVIII ст.» (1990; 1991), «Помнікі музычнай культуры Беларусі» (1995, вып. 2), «Фартэпіянная музыка Беларусі XVIII ст.» (2000, з У.Дулавым) і інш. Аўтар манаграфій «Музычная культура гарадоў Беларусі ў XVIII ст.» («Музыкальная культура городов Белоруссии в XVIII в.», 1992), «Музычная культура Беларусі XVIII ст.» (2002, 2 выд. 2004); навуч. дапаможнікаў «Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.» (1994), «Нарысы гісторыі музычнай культуры Беларусі» (2001), брашур «Восіп Казлоўскі» (1995), «Ян Давід Голанд» (1997). У 1995—2000 аўтар і вядучая цыкла перадач «Галасы мінуўшчыны» Бел. тэлебачання.

*Тв.*: Аркестравае выканальніцтва Беларусі // Полацак. 1991. № 6—7; Музыка в паратеатральных действах Белоруссии в XVIII в. // Nuo gotikos iki romantizmo. Vilnius, 1992; O przetwarzaniu elementów ludowych w kulturze muzycznej Nieświeża w drugiej połowie XVIII w. // Miasto i kultura ludowa w dziejach Białorusi, Litwy, Polski i Ukrainy. Kraków, 1996; Музычная культура Беларусі XVIII ст. ў агульнаеўрапейскім кантэксце // Беларусіка=Albaruthenica. Мн., 1997. Кн. 6, ч. 1; Музычнае мастацтва Беларусі ў эпохі Рэнесансу і Барока // Мастацтва. 1997. № 5; О музыкальном театре Беларуси XVIII столетия // Отражения музыкального театра. СПб., 2001. Кн. 1.

**дайнава**, дайнова, адно з яцвяжскіх плямён, у шырокім сэнсе ўвесь яцвяжскі племянны саюз (у разуменні літоўцаў 13 ст.). Да сярэдзіны 13 ст., магчыма, некат. дайнаўскія землі былі заваяваны Літвой, бо ў 1253 літоўскі кн. Міндоўг саступіў крыжакам палову Д. (Deynowe), а ў 1259 — усю гэту зямлю з валасцямі і населенымі пунктамі Сентане, Дэрнен, Крэсмен, Губінітэн, Вельцаве. У позніх бел.-літ. летапісах паведамляецца, што міфічны князь Трайдзень атрымаў ад брата Нарымонта зямлю яцвягаў, пабудаваў на р. Бебжа горад Райгарад і прзваўся князем яцвяжскім і дайнаўскім. Т.Нарбут лакалізаваў Д. на паўд. ускраіне Літ. княства і меркаваў, што мяжой паміж ім і Гарадзенскім княствам была р. Котра. Ён лічыў, што сталіца Дайнаўскай зямлі знаходзілася каля сучаснай в. Дайнава на З ад Ліды. М.П.Барсаў меркаваў, што Дайнаўская зямля знаходзілася ў міжрэччы Верхняга Нёмана і Віліі па прытоках Нёмана — Мерачанцы, Дзітве і Жыжме (раён скаплення тапонімаў, якія ўзыходзяць да назвы Д.). Г.Лаўмянскі на падставе лакалізацыі тапонімаў граматы Міндоўга 1259 зрабіў дапушчэнне, што ў 13 ст. Дайнаўская зямля знаходзілася паміж Мазурскімі азёрамі і р. Бебжа, была паўд. часткай зямлі Судавы (Судовіі). В.В.Сядоў лічыў, што Д. належалі каменныя курганы 2-й пал. 1-га тыс. н.э. ў міжрэччы Верхняга Нёмана і Віліі, якія ў пач. 2-га тыс. трансфармаваліся ў каменныя магілы. Пасля 13 ст. Д., відаць, была асімілявана славянскім і літоўскім насельніцтвам.

*Літ.*: Łowmiański H. Studja nad początkami społeczeństwa i państwa litewskiego. Wilno, 1932. T. 2. S. 39—44; Седов В.В. Ятвяжское племя Дейнова // Краткие сообщения Ин-та археологии. М., 1968. Вып. 113.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі»**, зборнік дакументаў і матэрыялаў у 4 тамах. Падрыхтаваны і выдадзены ў 1936—54 у Мінску Ін-там гісторыі АН БССР (т. 4 сумесна з Архіўным упраўленнем БССР). Уключае 2919 дакументаў, большасць якіх апублікавана ўпершыню. Навукова-даведачны апарат, пераклады з лац. і польск. моў у т. 1—2 на бел., у т. 3—4 — на рус. мовах. У т. 1, які выйшаў у 1936 пад назвай «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах» (складальнікі В.К.Шчарбакоў, К.І.Кернажыцкі, Дз.І.Даўгяла), змешчаны перадрукі дакументаў 9—18 ст. з раней надрукаваных зборнікаў (вытрымкі з летапісаў, ням., лац. і польск. хронік, з Метрыкі ВКЛ, дагаворы вял. князёў літоўскіх са Смаленскам, Цвер'ю, Ноўгарадам, матэрыялы аб перагаворах з вял. князямі маскоўскімі, крымскімі ханамі, стараж. граматы, прывілеі, дараваныя цэрквам і манастырам, заканадаўчыя акты і інш.); матэрыялы тома згрупаваны ў 12 раздзелаў. Т. 2 выйшаў у 1940 пад рэд. М.М.Нікольскага і І.Ф.Лочмеля (пасля перапрацоўкі, звязанай з рэпрэсіямі супраць яго першапачатковых складальнікаў Шчарбакова, Кернажыцкага і Даўгялы). Зміяшчае дакументы за 1770—1903 з архіваў Віцебска, Гомеля, Магілёва, Мінска, Пецярбурга і Масквы (пра палітыку царызму ў галіне землеўладання, тарыфную палітыку, удзел бел. насельніцтва ў вайне 1812, гвалтоўную русіфікацыю Беларусі, прыгнёт нац. меншасцяў і інш.); матэрыялы згрупаваны ў 12 раздзелаў, адзін з якіх прысвечаны паўстанню 1863—64 і палітыцы ўрада ў адносінах да ўдзельнікаў гэтага паўстання. Т. 3 выйшаў у 1953 пад рэд. У.М.Перцава, І.С.Краўчанкі, Я.П. Лук'янава, А.І.Воранавай і ўключае больш за 1 тыс. дакументаў пра рэв. рух на Беларусі ў 1905—07 і 1917. У т. 4, які выйшаў у 1954 пад назвай «З гісторыі ўстанаўлення Савецкай улады на Беларусі і ўтварэння БССР» пад рэд. А.І.Азарава, В.М.Жыгалава, Краўчанкі, Н.В.Каменскай, Я.М.Карпачова, змешчаны дакументы



перыяду за сак. 1917—люты 1919. У кожным томе змешчаны: прадмова, заўвагі (падрадковыя і па змесце), геагр. паказальнік; у асобных тамах паказальнікі: бібліяграфічны (т. 1), імянны (т. 1, 2), прадметны (т. 3, 4), архіўных фондаў і друкаваных крыніц (т. 3), пералік змешчаных у томе дакументаў (т. 2, 3), спіс скарачэнняў (т. 3, 4), слоўнік незразумелых слоў (т. 1), хроніка падзей (т. 4).

*Літ*: Вопросы архивоведения и источниковедения в БССР. Мн., 1971; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 273—282; Вопросы археографии в БССР. Мн., 1980.

*Міхась Шумейка.*

**«Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі»** («Документы Московского архива Министерства юстиции»), зборнік дакументаў па эканамічнай і палітычнай гісторыі ВКЛ за перыяд з 1430-х г. да 1569. Выдадзены ў 1897 у Маскве на аснове матэрыялаў *Метрыкі Вялікага княства Літоўскага* пад рэд. М.В.Доўнар-Запольскага. Сярод дакументаў Кніга данін вял. князя Казіміра з запісамі аб раздачы зямельных уладанняў, інвентары Ворненскага двара (1544), Мядзельскай вол. (1545), Радашковіцкага (1549) і Аршанскага (1560) замкаў, Рэчыцы (1565) і інш., у якіх названы колькасць службаў, размяшчэнне зямлі пад імі, звесткі пра гаспадарку і характар падаткаабкладання розных груп насельніцтва; дакументы Віленскіх (1547, 1563), Гарадзенскага (1567), Люблінскага (1569) соймаў пра развіццё паліт. жыцця княства; звесткі аб раздачы маёнткаў полацкай шляхце ў час Інфлянцкай вайны 1558—82; «Рэвізія стараства Берасцейскага» (1566) аб становішчы насельніцтва на гаспадарскіх землях пасля правядзення валочнай памеры з падрабязным апісаннем больш як 80 пасяленняў у складзе 23 войтаўстваў і 7 валасцей. У дакументах адлюстраваны таксама пытанні ўзаемаадносін з Маскоўскай дзяржавай і Крымскім ханствам у часы кіравання Жыгімонта I Старога; апісана мяжа ВКЛ з Маскоўскай дзяржавай у 1523. Усе дакументы прыведзены ў храналагічным парадку, змешчаны геаграфічны, імянны і прадметны паказальнікі.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 240—242.

*Ларыса Бельская.*

**Далгарукаў** (Долгоруков) Юрый Аляксеевіч [каля 1600—15(25).5.1682], расійскі ваенны дзеяч, князь. Пачаў службу ў 1627 стольнікам, у 1646 прызначаны ваяводам у Пуціўль, у 1648 атрымаў чын баярына. Быў асабліва блізкай асобай цара Аляксея Міхайлавіча. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* актыўна ўдзельнічаў у ваен. дзеяннях на тэр. Беларусі: у 1654 у захопе Мсціслава, Дуброўны і Шклова; у 1655 у спусташальным рэйдзе ў Бел. Панямонне. У лют. 1658 прызначаны царскім ваяводам у Менску, у маі — у Вільні. Распачаўшы ваен. дзеянні супраць войска ВКЛ, пацярпеў паражэнне пад Коўнам, аднак у бітве пад Вільняй перамог сілы В.Гасеўскага. Як галоўнакамандуючы царскай арміі на Беларусі ў кастр. 1660 на чале 18-тысячнага войска процістаяў войску П.Сапегі, М.Паца і С.Чарнецкага (усяго 12 тыс.) на р. Бася (каля Магілёва) і пацярпеў паражэнне (гл. *Бітва на Басі 1660*). У 1661 паводле загаду цара выпальваў мястэчкі і вёскі ў Бел. Падняпроўі. З 1664 вёў перагаворы з камісарамі Рэчы Паспалітай пад Смаленскам, потым зноў прызначаны галоўнакамандуючым царскай арміяй на Беларусі, дзе трымаў у аблозе Шклоў. Настойваў на інкарпарацыі ўсх.-бел. земель і працягу вайны з Рэччу Паспалітай. У 1670—71 кіраваў задушэннем нар. паўстання на чале з С.Разіным у Паволжы. Знаходзіўся пры царскім двары, вёў перагаворы з дыпламатамі Рэчы Паспалітай і Швецыі. Актыўна прычыніўся да абвяшчэння пераемнікам цара Фёдара Аляксеевіча. Забіты разам з сынам стральцамі ў час іх чарговага бунту ў Маскве.

*Літ.*: Акты Московского государства. Т. 2—3. СПб., 1894—1901.

*Генадзь Сагановіч.*

**«Даленга»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 170 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Мыцельскія, Радзівіловічы, Серакоўскія, Хадакоўскія. У блакітным полі сярэбраная падкова канцамі ўніз, на ёй залаты кавалерскі крыж, унізе сярэбраная страла вастрыём уніз; клейнод — над прылбіцай з каронай чорнае крыло, прабітае сярэбранай стралой. Вядомы з пач. 15 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.

*Валерый Пазднякоў.*



Герб **«Даленга»**.

**«Даліва»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталіся каля 140 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Каты, Млечкі, Сыруці, Фалькоўскія. У блакітным полі сярэбраны касы пояс, на якім 3 чырвоныя ружы; клейнод — над прылбіцай з каронай паміж 2 чорнымі трубамі 3 чырвоныя ружы ўслуп. Вядомы з сярэдзіны 14 ст., у ВКЛ пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.



Герб **«Даліва»**.

*Валерый Пазднякоў.*

**Далматы-Ісайкоўскія**, гл. *Ісайкоўскія*.

**далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі**. Ажыццёўлена ў 2-й пал. 18 ст. ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Пасля *першага падзелу Рэчы Паспалітай* у жн. 1772 да Расіі далучана ўсх. частка Беларусі да Зах. Дзвіны, Друці і Дняпра, якая ўваходзіла ў Полацкае, Віцебскае і Мсціслаўскае ваяводствы. Паводле *другога падзелу Рэчы Паспалітай* у студз. 1793 да Расіі далучаны цэнтр. раёны Беларусі — астатнія часткі Полацкага, Віцебскага і Мсціслаўскага ваяводстваў, Менскае, усх.



часткі Навагародскага і Берасцейскага ваяводстваў, большая частка Браслаўскага і Ашмянскага паветаў. Пасля *трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай* у кастр. 1795 у склад Рас. імперыі ўключана зах. частка Беларусі. Тэрытарыяльныя набыткі Расіі склалі 41 млн. дзесяцін з 3,8 млн. ж. (1795). У 1772 на землях, далучаных паводле 1-га падзелу, замест старога адм.-тэр. падзелу на ваяводствы і паветы была ўведзена трохзвенная сістэма кіравання на вялікарасійскі ўзор: губерня — правінцыя — павет. Аднак неўзабаве ўсх.-бел. землі сталі месцам выпрабавання двухзвеннай сістэмы адміністрацыі (без правінцый), што было замацавана «Устанаўленнем для кіравання губерняў Усерасійскай імперыі» ад 7.11.1775. Заканадаўча-распарадчая ўлада адразу сканцэнтравалася ва ўстановах рас. адміністрацыі (намесніцкія канцылярыі, губернскія праўленні, экспедыцыі дамаводства, казённыя палаты і інш.). Судова-выканаўчыя функцыі пакідаліся мясц. саслоўным станам на ранейшых правах, судаводства і справаводства засталіся на польскай мове. Афіцыйная перапіска і зносіны з вышэйстаячымі інстанцыямі ажыццяўляліся на рус. мове. Аднак са скасаваннем ваяводстваў і ранейшых паветаў судовыя ўстановы, што адпавядалі ім, аўтаматычна страцілі правы на канчатковае вынясенне і рэалізацыю сваіх рашэнняў без найвысачэйшага дазволу. З 15.4.1773 апеляцыйнай інстанцыяй для падначаленых мясцовасцей і асоб стала Юстыц-калегія ліфляндскіх, эстляндскіх і фінляндскіх спраў пры Сенаце, у якой з 14.10.1774 да 24.10.1780 дзейнічаў спецыяльны Бел. дэпартамент. Пазней яго функцыі выконваў 3-і дэпартамент Сената. З 28.6.1795 жыхары Літоўскай губ. падавалі апеляцыі ў Вярхоўнае Літоўскае праўленне, сесіі якога пачаргова адбываліся ў Гародні і Вільні. Указам ад 6.2.1797 Павел І аднавіў дзейнасць земскіх, гродскіх і падкаморскіх судоў пад апеляцыяй Літоўскага трыбунала, але захаваў следча-кантрольны нагляд над імі з боку губернскай адміністрацыі. Генерал-губернатар атрымаў права надання чыноў да звання тытулярнага саветніка, што спрыяла папаўненню судова-адм. пасад з ліку маламаёмных і вернападданых бел. ураджэнцаў.

З першых крокаў царызм абвясціў аб захаванні маёмасных правоў усіх саслоўяў пры ўмове прынясення вернападданай прысягі. Адмова ад прысягі каралася прымусовым выгнаннем за мяжу, секвестрам і канфіскацыяй уласнасці ў казну. Аднаўленне спадчынных правоў адбывалася шляхам кругавой парукі (падпіскі) даверaных асоб на царскае імя. Пры Паўле І новая ўлада прызнала правадзейнасць *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588*. Перакладзены на рус. мову ў 1785 пры Магілёўскім губернскім праўленні, ён быў надрукаваны ў Пецярбургу толькі ў 1810 на час дзеяння межавых судоў і разам з апошнімі скасаваны пры Мікалаю І у 1840. У 1810 Аляксандр І абяцаў распаўсюдзіць канстытуцыю Варшаўскага княства на губерні імперыі, што азначала б ліквідацыю адасобленасці далучаных зямель і ўкараненне ва ўсёй дзяржаве федэратыўнага ладу з разбіўкай тэрыторыі на 12 намесніцтваў. Планам Агінскага 1811 прадугледжвалася аб'яднаць 8 зах. губерняў імперыі ў Вял. княства Літоўскае з аднаўленнем у поўным аб'ёме ў якасці цывільнага кодэкса Статута ВКЛ. Аднак з-за супрацiўлення кансерватыўных колаў рас. дваранства, якія баяліся расчлянення імперыі і распаўсюджвання рэспубліканскіх парадкаў у глыб Расіі, рэфарматарскія планы не былі ажыццёўлены.

Бел. шляхта інкарпаравалася ў склад рас. дваранства ў выніку дазволу самастойна падаваць спісы і дакументальныя пацвярджэнні высакароднага паходжання і прыналежнасці да непадатковага стану. Разбор шляхты расцягнуўся да сял. рэформы 1861. У 1777 шляхце было забаронена самавольна збірацца на соймікі. Каб заахвоціць мясц. ураджэнцаў да дзярж. службы, урад дазволіў усім чыноўнікам купляць сялян, што аўтаматычна дазваляла карыстацца правамі рас. дваранства. Указам ад 14.12.1799 скасаваны губернскія дваранскія сходы і пачаты ўлік дваранскіх родаў. Губернскія маршалкі дваранства выбіраліся з вузкага кола павятовых маршалкаў, а не ўсёй шляхтай губерні. Адхіленне большасці мясц. шляхты ад прамога ўдзелу ў саслоўным самакіраванні, дапоўненае ўвядзеннем у 1802 высокага грашовага цэнзу, у далейшым стала прычынай радыкальна-дэмакратычных настрояў у шляхецкім асяроддзі. Страчаныя вольнасці і ранейшае прывілеяванае становішча шляхта імкнулася адстаяць спробай паўстання ў 1797 у Літоўскай губ., удзелам у паходзе Напалеона на Маскву 1812, а затым у масавым антырас. паўстанні 1830—31. Гал. і надзейным сродкам уніфікацыі далучаных зямель з астатняй часткай імперыі з'яўляліся царскія падараванні секвестраваных і канфіскаваных сялян у вечнаспадчынную ўласнасць рускім дваранам. З арыштаванымі ўладаннямі новай уладзе пераходзілі даўгі караля, маёмасныя іскі спадчыннікаў і пасэсараў. Каб захаваць маёнткі ў казне ад пагрозы адчужэння, пазбегнуць выплаты фальсіфікаваных і шматвяковых прэтэнзій, указам ад 22.12.1777 урад абвясціў недатыкальнымі ўсе дзярж. ўладанні, у т.л. аддадзеныя ў прыватныя рукі і часовую арэнду. У 1783—85 ва ўсх.-бел. губернях было праведзена Генеральнае межаванне. Шляхам добраахвотнага зацвярджэння самімі ўладальнікамі вынікаў межавання царызм дабіўся прыраўноўвання насаджанага рас. землеўладання да спрадвечнага мясцовага. Фактычнае землеўладанне стала сапраўдным толькі па межавых дакументах, папярэднія зямельныя акты былі скасаваны. Ва ўзаемаадносіны паміж памешчыкамі і сялянамі царызм умешваўся толькі ў выпадках нясцерпнага для сялян дэспатызму прыгнятальнікаў. У дзярж. вёсках усх. Беларусі ў 1779—85 былі ліквідаваны фальваркі, а сяляне пераведзены на грашовы аброк. Рэформа мела на мэце схіліць дзярж. сялян да добраахвотнага пераходу з уніяцтва ў праваслаўе. На працягу 1780—83 змянілі веравызнанне 230,5 тыс. чал.

Абцяжаранасць канфіскаваных маёнткаў вял. даўгамі прымусіла новую ўладу пакінуць асн. частку старастваў у пажыццёвай арэндзе ранейшых трымальнікаў і ўскласці пагашэнне запазычанасці на сялян. Каб утаймаваць самавольства арандатараў і прадэманстраваць заклапочанасць становішчам сялян, улады праводзілі рэвізіі ўладанняў, дазвалялі сялянам падаваць скаргі, афармлялі ўмовы арэнды кантрактамі з вызначэннем агульных абавязацельстваў бакоў. Афіцыйна інвентары з дзярж. нарміраваннем сял. надзелаў і павіннасцей былі прызнаны пры правядзенні люстрацыі дзярж. уладанняў 1798 у час голаду і шырокага сял. руху ў паўн.-ўсх. паветах Бел. губерні. Рас. ўлада адразу забараніла самавольныя пераходы падатковага насельніцтва, увяла пашпартную сістэму рэгістрацыі, абвясціла рэвізскія спісы актамі па замацаванні сялян за ўладальнікамі. Гэта спарадзіла запрыгоньванне раней воль-



ных людзей (*баяр, зямян, выбранцаў* і інш.). З 1776 усе бел. дваране атрымалі права закладу сялян у цэнтр. крэдытныя ўстановы пад безвыротныя пазыкі, што пашырала магчымасці вывазу сялян у інш. губерні, здачы іх у залік рэкрутаў.

Яўрэйскае насельніцтва Беларусі захавала фіскальную аўтаномію, уласнае судова-духоўнае самакіраванне праз кагалы, непадпарадкаванасць гарадскім цэхам. Дзякуючы кагальнай арганізацыі трымалася алігархічная ўлада рабінаў і старшынь, нац.-рэлігійная адасобленасць яўр. абшчыны. Царызм падтрымліваў саслоўную адасобленасць яўрэяў з-за выгод калектыўнай (кругавой) адказнасці кагалаў за безнядоімкавае спагнанне пагалоўных падаткаў са сваіх членаў. Патрыярхальныя традыцыі былі парушаны ўзнікненнем мадэрнісцкай асветніцкай плыні (хасідызму) і дазволам з 7.1.1779 запісвацца ў купецтва і мяшчанства. Заможнае яўрэйства атрымала магчымасць вызваліцца з-пад адказнасці за немаёмную частку кагалаў, аднак у 1780—83 хрысціянскія вярхі магістратаў з дапамогай меркантыльных і веранецярпімых чыноўнікаў дабіліся абмежавання яўрэяў пры выбарах на кіруючыя пасады ў гарадах, канфіскацыі іх сяліб і прымусіла несці цяжар падаткаабкладання. Пры неўраджаях і голадзе сялян памешчыкі ў сваю чаргу звальвалі нястачы на яўрэяў. Указам ад 7.5.1786 яўрэям забаранялася ўласнае вінакурства ў гарадах, а ўказамі ад 7.10.1790 і 23.12.1791 іх пазбавілі права запісвацца ў гар. жыхарства цэнтр. губерняў імперыі. Уведзеная мяжа яўрэйскай аселасці ахоплівала выключна заходнія, у т.л. бел., губерні.

З першых крокаў сваёй палітыкі на Беларусі царызм дэклараваў талерантныя адносіны да існуючых канфесій, сярод якіх пераважала уніяцтва. На Беларусі была захавана дзейнасць ордэна *езуітаў*, забароненага рымскім папам, ордэны і кляштары вызваляліся з-пад юрысдыкцыі замежных генералаў і правінцыялаў. У 1773 утворана Бел. рымска-каталіцкая епархія (з 1782 Магілёўскае рымска-каталіцкае арцыбіскупства) на чале з лаяльным архібіскупам С.Богушам-Сестранцэвічам, касцельнай уладзе якога падлягалі ўсе католікі імперыі. Каталіцкаму духавенству катэгарычна забаранялася схіляць у сваю веру іншаверцаў, уводзілася цэнзура духоўных выданняў і пільны паліцэйскі нагляд за святарамі. У 1785 царкоўна-манастырскія ўладанні былі абвешчаны публічнай маёмасцю і падпалі пад заканадаўства аб ахове дзярж. маёмасці. За перашкоды пераводу вернікаў у праваслаўе любая асоба магла быць пакарана канфіскацыяй маёмасці і судом. На мяжы 18—19 ст. па колькасці прыходскіх цэркваў праваслаўе на Беларусі наблізілася да інш. канфесій. Аднак секулярызацыю царкоўна-манастырскай маёмасці і канчатковае ўкараненне праваслаўя царскі ўрад здзейсніў гвалтоўным чынам у 1830—40-я г. Па ўсіх кірунках сваёй палітыкі на далучаных землях Беларусі царызм імкнуўся аздобіць уласныя мерапрыемствы дэкларатыўным захоўваннем папярэдніх правоў і кансервацыяй існуючых саслоўных парадкаў. Гэта давала магчымасць ураду з выгадай эксплуатаваць прыгнечанае бел. сялянства пад выглядам уласнай вызваленчай місіі. Такая двайстасць палітыкі царызму спарадзіла ўстойліва апалагетычную і катэгарычна адмоўную навук. літаратуру.

*Літ.*: Loret M. Kościoł katolicki a Katarzyna II, 1772—1784. Kraków; Warszawa, 1900; Lenntonen U.L. Die polnischen Provinzen Russlands unter Katharina II in den Jahren 1772—1782. Berlin, 1907; Жукович П.Н. Управление и суд в Западной России в царствование Екатерины II // Журн. Мин-ва нар. просвещения. 1914. № 2—5, 7; Яго ж. Сословный состав населения Западной России в царствование Екатерины II // Там жа. 1915. № 1—2, 5; Яго ж. Западная Россия в царствование императора Павла // Там жа. 1916. № 6, 8, 10; Ільяшэвіч М. Расейская палітыка на землях былога Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўла I (1772—1801). 2 выд. Мн., 1992; Żytkowicz L. Rządy Repnina na Litwie w latach 1794—1797. Wilno, 1938.

***Яўген Анішчанка.***

**Дальберг** (Dahlberg) Эрык [10(20).10.1625, Стакгольм?—16(27).1.1703], шведскі ваенны інжынер і мастак-баталіст. Вучыўся ў парафіяльных лютэранскіх школах, у бухгалтарскай школе ў Гамбургу. З 1641 дробны пісар адміністрацыі шведскага Зах. Памор'я. На падставе добрых ведаў матэматыкі і таленту мастака зрабіў хуткую кар'еру. У 1645 атрымаў афіцэрскае званне, у 1648 — званне дзярж. інжынера-фартыфікатара. Удасканаліў веды ў Францыі і Італіі. З крас. 1656 па 13.7.1657 у дзеючай арміі на тэр. Рэчы Паспалітай, займаў пасаду генеральнага кватармайстра. Удзельнік бітвы за Варшаву (28—30.6.1656), сумеснага паходу кааліцыі Швецыі, Трансільваніі, Прусіі, Украінскага гетманата і палка Б.Радзівіла на Берасце ў маі 1657. Разам са шляхціцам ВКЛ Э.Путкамерам, укр. арыянскім магнатам Ю.Неміровічам Д. прызначаны камісарам Карла X на перагаворах аб здачы Берасця, якія скончыліся хутка і паспяхова дзякуючы таленту Д. Адначасова ён кіраваў групай дзярж. мастакоў і картографаў, якая 23.5.1657 зрабіла план места і 2 малюнкі з панарамай места (адзін з малюнкаў «Аблога Берасця» надрукаваны ў 1696 С.Пуфендорфам). Падрабязны план горада з легендай і панарама горада з левага берага Буга заставаліся невядомымі і былі адшуканы ў 2003 А.Катлерчуком у зборах Каралеўскай б-кі Швецыі. Д. і яго мастакі стварылі некалькі дзесяткаў гравюр, якія падрабязна асвятляюць дзеянні шведскай арміі ў час Паўн. вайны 1655—60, у т.л. прарыў шведамі акружэння злучаных польска-літоўскіх войск на чале з С.Чарнецкім, Е.Любамірскім і П.Я.Сапегам пад Сандамірам 4.4.1656, бітву пад Філіпавам (22.10.1656), дзе войскі шведскага фельдмаршала Г.О.Штэйнбока і брандэнбургскага генерала Г.Ф.фон Вальдэка разбілі 12-тысячнае войска ВКЛ на чале з В.Гасеўскім. Гравюры Д. набылі шырокую вядомасць у Еўропе дзякуючы твору «De rebus a Carlo Gustavo gestis» ням. гісторыка Пуфендорфа (выдавецтва Крыстофа Рыгеля ў Нюрнбергу, 1696), у якім яны выкарыстаны як ілюстрацыі. У далейшым Д. атрымаў званне генерала артылерыі, канцлера Дорпацкага (Тартускага) ун-та, ген.-дырэктара ўсіх дзярж. замкаў і фартэцый, баронскі тытул. З 1696 ген.-губернатар шведскай правінцыі Лівонія (паўн. Латвія і Эстонія). У 1701 двойчы адбіў наступ войск Саксоніі і Рэчы Паспалітай на Рыгу, што стала асновай перамогі Карла XII у бітве на Дзвіне. Вынікам маст. творчасці групы Д. было фундаментальнае выданне альбома «Suecia antiqua et hodierna» (1716) з выявамі ўсіх замкаў Шведскага каралеўства ад Брэмена да Ніена (тэр. сучаснага С.-Пецярбурга). Д. — аўтар дыярыуша, які змяшчае падрабязныя звесткі пра аблогу і захоп Берасця ў маі 1657. Статуя Д. ўпрыгожвае дах гал. каралеўскага палаца Стакгольма «Трэ Крунор».

*Літ.*: Accords Puncta, so Bey Übergebung der Stadt und Scholsses Brescie Litevski. An Jhr. Königl. Mytt. zu Schweden und Jhr. Fürstl. Durchl. Zu Siebenbürgen/geschlossen. Jm Jahr 1657. Dat im Feld-lager bey Brescie den 16 Maji/st. n. Anno 1657; Pufendorf S. De rebus a Carolo Gustav



Sveciae rege gestis commentariorum, libri septem elegantissimis tabulis aeneis exornati cum triplici indice. Norimbergae, 1696; Я г о ж. Sju böcker om konung Carl X Gustafs bragder. T. 1—3. Stockholm, 1913—15; H e y d u k B. Dahlbergh w Polsce: Dziennik i ryciny szwedzkie z dziejów «Potopu», 1656—1657. Wrocław etc., 1971; Б е л ы А. Невядомыя эпізоды «невядомай вайны»: Ваенныя дзеянні Швецыі супраць ВКЛ у 1656—1657 гг. вачыма Эрыка Дальберга // Спадчына. 1999. № 3.

*Алесь Белы, Андрэй Катлярчук.*

**Даманеўскі** (Д а м а н о ў с к і) Фабіян, беларускі мысліцель-гуманіст і паэт эпохі позняга Адраджэння і барока. Ідэолаг нонадарантызму (рэліг.-філас. рух на Беларусі ў 2-й пал. 16 ст.). Крытыкаваў Біблію, лічыў Хрыста не Богам, а простым чалавекам, адмаўляў неўміручасць душы. У 1589 разам з С.*Будным* вёў дыспут з езуітамі ў Полацку, даказваў, што душа чалавека пасля смерці гіне разам з яго целам. Аўтар верша на польск. мове «Эпіграма на герб Лясот», надрукаванага ў кнізе Буднага «Пра свецкую ўладу» (1583). У творы выказваў думку, што ўсякая ўлада павінна быць разумнай і маральнай.

*Літ.*: П о д о к ш и н С.А. Скорина и Будный: Очерк филос. взглядов. Мн., 1974. С. 121—122.

*Сямён Падокшын.*

**Даманеўскі** (Д а м а н о ў с к і) Язэп (2-я пал. 16 ст.—1-я пал. 17 ст.), беларускі мысліцель і гуманіст, паэт эпохі позняга Адраджэння і барока. Сын Ф.*Даманеўскага*. Як сацыніянін 25.1.1594 у Навагародку ўдзельнічаў у дыспуце з філосафамсхаластам М.*Сміглецкім*. З пазіцый наміналізму адмаўляў перадіснаванне Хрыста. У канцы 1590-х г. схіляўся да атэізму, за што быў выключаны з сацыніянскай абшчыны (1600). На польск. і лац. мовах у Любчы ў 1620—23 надрукаваны яго маральна-павучальныя вершаваныя творы «Жыццё сельскае і гарадское», «Перасцярога і заахвочванне тым, хто многа гаворыць і думае, але нічога не робіць», «Суцяшэнне тым, каму мужы перашкаджаюць паводзіць сябе з годнасцю», «Некаторыя эмблемы», «Афарызмы Саламона ў паэтычным выкладанні». У іх адлюстраваны філас.-этычныя погляды і творчы метад у духу эстэтыкі барока. Д. ідэалізаваў вясковае жыццё як увасабленне «натуральнага становішча» чалавека, гарадское разумеў як «супрацьнатуральнае». Каларытна апісваў жыццё бел. горада пачатку 17 ст., выкарыстоўваў канкрэтна-гіст. бытавыя дэталі, фальклор, нар. гумар.

*Літ.*: П а р э ц к і Я. Язэп Даманоўскі // Полымя. 1968. № 2; П о д о к ш и н С.А. Философ-гуманист Юзеф Доманевский // Идеи гуманизма в общественно-политической и философской мысли Белоруссии (дооктябрьский период). Мн., 1977; Я г о ж. Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі: Ад Францыска Скарыны да Сімяона Полацкага. Мн., 1990; Я г о ж. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003.

*Сямён Падокшын.*

**Даманоўскі** (Д а м а н е ў с к і) Ян (каля 1496, в. Даманава, Падляшша—да 3.11.1563), каталіцкі рэлігійны дзеяч, дыпламат, юрыст ВКЛ. Атрымаў юрыд. і тэалагічную адукацыю ў Італіі. Пры падтрымцы каралевы Боны ў 1521 стаў канцлерам віленскага біскупа, з 1524 пробашч у Іўі, з 1528 канонік віленскі, з 1529 пробашч Віленскага кафедральнага касцёла, з 1531 віленскі вікарый і генеральны афіцыял. Удзельнічаў у складанні 1-га віленскага сінадальнага статута (1526). З 1539 сакратар вял. кн. Жыгімонта I, потым Жыгімонта II Аўгуста. Актыўна процідзейнічаў пашырэнню Рэфармацыі. У 1540—44 удзельнічаў у працах камісіі па вызначэнні граніцы з Інфлянтамі, у 1545 — з Прусіяй. У 1546 пасол ад Рады ВКЛ да Жыгімонта I у справе уніфікацыі манеты ВКЛ і Польшчы і вызначэння іх граніцы. У 1551 пасол у Інфлянты для ўрэгулявання пагранічных пытанняў. З 1555 біскуп жамойцкі (зацверджаны рымскім папам у 1556). У 1559—61 удзельнічаў ва ўсіх найважнейшых дзярж. нарадах, дзе вырашалася пытанне далучэння Інфлянтаў да ВКЛ. Відаць, з 1551 узначальваў 1-ю камісію па распрацоўцы *Статута Вялікага княства Літоўскага 1566*, якая складалася з 5 католікаў і 5 праваслаўных. Лічыўся адным з найб. адукаваных людзей свайго часу, знаўцам права.

*Валерый Пазднякоў.*

**Дамбкоўскі** (Dąbkowski) Пшэмыслаў Раман (23.2.1877, г. Львоў—18.12.1950), польскі гісторык. Чл. Польск. АН у Кракаве, д-р габілітаваны (1906), праф. звычайны (1919). Скончыў Львоўскі ун-т, дзе пасля выкладаў, у 1919—20 у Варшаўскім ун-це, у 1920—21 у Каталіцкім ун-це ў Любліне, пасля зноў да 1941 у Львоўскім ун-це. У 1925—39 выдаваў час. «Pamiętnik historyczno-prawny» («Гістарычна-прававы дзённік»). Працы па гісторыі права Польшчы і ВКЛ, архівістыцы, гісторыі гаспадаркі.

*Тв.*: Rys urządzeń pocztowych w dawnej Polsce. Kraków, 1903; Stanowisko cudzoziemców w prawie litewskiem w drugiej połowie XV i w XVI wieku (1447—1588). Lwów, 1912; Dobra rodowe i nabyte w prawie litewskim od XIV do XVI wieku. Lwów, 1916; Pokłosie z dwudziestu lat pracy naukowej zebrane, 1897—1916. Lwów, 1917; Urzędnicy kancelaryjni sądów ziemskich i grodzkich w dawnej Polsce. Lwów, 1918; Bartnictwo w dawnej Polsce: Szkice gospodarczoprawne. Lwów, 1923.

*Літ.*: Pamiętnik trzydziestolecia pracy naukowej prof. dr. Przemysława Dąbkowskiego. Lwów, 1927 (змешчана бібліяграфія прац Д.).

*Валерый Пазднякоў.*

**«Дамброва»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася каля 70 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Карніцкія, Кішкі, Лосі, Цеханавецкія. У блакітным полі сярэбраная падкова канцамі ўніз, на ёй і на яе канцах стаяць залатыя кавалерскія крыжы. Клейнод — над прылбіцай з каронай чорнае крыло, прабітае стралой. Існуюць варыянты герба з чырвонай падковай, клейнод — 5 страусавых пёраў; з 6-прамянёвай залатой зоркай пасярод падковы. Вядомы з сярэдзіны 14 ст.

*Валерый Пазднякоў.*

**Дамброўскі** Самуэль (1577—5.7.1625), дзеяч лютэранскай царквы ў ВКЛ. Паходзіў з роду аселых ў ВКЛ уцекачоўгусітаў, але ўжо бацька Д. прыняў лютэранства. Вучыўся ў Тарунскай гімназіі, Каралявецкім і Вітэнбергскім ун-тах. У 1601 пасвячоны ў сан, атрымаў месца пастара ў Познані. У 1607—16 лютэранскі суперінтэндэнт Вял. Польшчы. У 1615 запрошаны Сінодам лютэран ВКЛ на пасаду пастара Вільні і інсталяваны як суперінтэндэнт «збораў аўгсбургскай канфесіі Літвы і Жамойці». Удзельнічаў у палеміцы з дзеячамі контррэфармацыі, быў аб'ектам нападак у каталіцкіх палемічных выданнях. У Вільні наладжваў адносіны паміж нямецкай і польскамоўнай часткай лютэран, умацоўваў становішча апошняй. У 1611 выдаў першы друкаваны твор «Лякарства для душы хрысціянскага чалавека ў хваробе» («Lekarstwo duszne człowieka Krześciańskiego w chorobie», Гданьск, 1611). У віленскі перыяд апублікаваў польскі пераклад аднаго з катэхізісаў М.Лютэра, канцыянал «Душэўны рай» («Ray duszny męski y białogłowski z psalmów i modlitew z pieśniami», Торунь, 1623), некалькі казанняў з розных нагод, надрукаваных




С.**Дамброўскі**. Гравюра 17 ст.

у Вільні, Торуні, Караляўцы. Найб. вядомы твор Д. — «Пасціла хрысціянская...» («Postilla Chrześciańska, albo Kazania y wykłady porządne...», Торунь, 1620—21) у 5 частках. Першы раз выдадзена за кошт гараднічага віленскага П.Нонгарда, неаднаразова перавыдавалася да пач. 20 ст. і да 1939 мела значны духоўны ўплыў на землях ВКЛ, у Польшчы, Чэхіі і Славакіі, лютэранскіх каланістаў з Палесся ў Сібіры.

*Літ.*: A [d a m o w i c z] F.A. Kościół Augsburski w Wilnie. Wilno, 1855; N o w a k Z. Literackie natarcie kontrreformacji na ks. Samuela Dambrowskiego // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. Warszawa, 1965. T. 13; K n e i f e l E. Die Pastoren der Evangelisch-Augsburgischen Kirche in Polen. [1970].

***Мікола Пачкаеў.***

**дамен** (франц. domaine ад лац. dominium уладанне), форма зямельнай уласнасці ў сярэдневякоўі, пры якой валоданне зямлёй поўнае і спадчыннае. Уладальніку Д. належала не толькі зямля, але і людзі, што на ёй жылі. К а р а л е ў с к і Д. узнік на аснове прысваення каралём вярх. уласнасці на зямлю племя, народа, уключаў *вотчыну*, гарады, крэпасці, лясы, пашы, азёры і інш., раскіданыя па розных кутках дзяржавы. Павялічваўся за кошт канфіскаваных зямель феадалаў і царквы, быў гал. крыніцай даходаў на ўтрыманне манарха і яго двара, а таксама фондам зямельных надзелаў васалаў. На тэр. Беларусі ў 11—13 ст. існавалі і даменіяльная зямельная ўласнасць, і ўмоўнае землеўладанне князёў і баяр, якое ў пісьмовых крыніцах абазначаецца тэрмінам *«воласць»* (у краінах Зах. Еўропы наз. бенефіцыі). У ВКЛ у 14—18 ст. гаспадарскі Д. утвараўся з родавых уладанняў дынастыі вял. князёў, а таксама з прысвоеных маёнткаў інш. літ. і бел. князёў, складаўся з гаспадарскіх двароў і валасцей, якімі кіравалі намеснікі, цівуны, старасты-дзяржаўцы. Уласная гаспадарка вял. князя, якая вялася на даменіяльных уладаннях, была асновай матэрыяльнай магутнасці манарха. Значны прыбытак давала абкладанне падаткамі тых землекарыстальнікаў, гандляроў і рамеснікаў, што жылі на гаспадарскай зямлі. У час войнаў асн. формай фінансавання ваеннаслужылага баярства стала раздача даменіяльных уладанняў, якая спынілася толькі пасля *Люблінскай уніі 1569*, калі ў Д. засталося каля 25% зямлі, прыкладна столькі ж у вотчынах князёў і магнатаў, а палова зямельнага фонду дзяржавы належала шляхце і царкве. У выніку правядзення аграрнай рэформы (гл. *«Устава на валокі» 1557, Валочная памера*) гаспадарскія двары былі пераўтвораны ў *фальваркі*, узніклі *староствы* і *эканоміі*. Існавалі таксама Д. с е н ь я р ы я л ь н ы я (баярскія і магнацкія) — частка вотчыны феадала, якая была яго непасрэднай уласнасцю і на якой уладальнік, выкарыстоўваючы працу залежных сялян, вёў сваю даменіяльную гаспадарку.

*Літ.*: Д о в н а р - З а п о л ь с к и й М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901.

***Генадзь Сагановіч.***

**дамініканцы**, манахі каталіцкага «жабрацкага» манаскага ордэна прапаведнікаў («Ордэн братоў-прапаведнікаў», лац. Ordo Fratrum Praedicatorum, OP). Назва ад імя заснавальніка іспанца Дамініка дэ Гусмана (1170—1221), кананізаванага ў 1234. Створаны ў пач. 13 ст., зацверджаны папам Ганорыем III у 1216. Статут ордэна складзены на аснове статута св. Аўгусціна (гл. *Аўгусцінцы*). Дамінік актыўна змагаўся з ерасямі, таму гал. кірункам яго ордэна стала прапагандысцка-місіянерская дзейнасць. Пры папе Грыгорыю IX [1227—41] Д. атрымалі шэраг прывілей. Ім была даручана і інквізіцыя. «Жабрацкі» характар ордэна не заўсёды вытрымліваўся. У 1475 і 1477 Д. афіцыйна дазволена валодаць маёмасцю і мець сталыя крыніцы прыбытку. Папства выкарыстоўвала ордэн у барацьбе з ерасямі, свецкімі ўладамі, пазней — з рэфармацыйным рухам. Д. ўзначальвалі кафедры ў многіх еўрап. універсітэтах. З гэтага ордэна выйшлі вядомыя тэолагі і дзеячы каталіцкай царквы: Альберт Вялікі, Вікенцій Бавэскі, Саванарола, Фама Аквінскі. Ордэн падзяляўся на правінцыі на чале з правінцыяламі, кляштары (канвенты) узначальвалі прыёры. На чале ордэна стаяў генерал (генеральны магістр), рэзідэнцыя якога была ў Рыме. Вышэйшы калегіяльны ордэн Д. — капітул, які складаўся з генерала, правінцыялаў і дэлегатаў (па аднаму з кожнай правінцыі). У наш час ордэн дзейнічае ў 50 краінах. У 1233 Д. заснавалі першы кляштар у Польшчы (Кракаў), адкуль яны сталі пранікаць на землі ВКЛ (Новагародак, Вільня), дзе сустракалі тады значныя перашкоды. На Беларусі і ў Літве яны замацаваліся ў пач. 16 ст. Першай іх рэзідэнцыяй лічыцца кляштар пры касцёле Св. Духа ў Вільні (1501). Спачатку дамініканскія кляштары ўваходзілі ў склад Польскай правінцыі. У 1647 створана Літоўская правінцыя Анёла Ахоўніка, якая ахоплівала тэрыторыю ўласна Літвы, зах. і паўн. Беларусі. Д. належалі бібліятэкі, гімназіі і павятовыя школы, калегіум пры віленскім кляштары. Кляштары Літоўскай правінцыі былі ў Астраўцы, Ашмянах, Васілішках, Віцебску, Гародні, Дзярэчыне, Друі, Забелах, Коўна, Мерачы, Новагародку, Нясвіжы, Оршы, Полацку, Расіенах, Слоніме, Троках, Ушачах, Халопенічах і інш. Кляштары Д. паўд., усх. і цэнтр. Беларусі ўваходзілі ў склад Рус. правінцыі св. Яцака, якая ўключала таксама ўкраінскія землі Кароны Польскай (створана ў 1595, аднаўлена ў 1612). Яны знаходзіліся ў Астроўне, Беліцы, Галоўчыне, Дудаковічах, Заслаўі, Зембіне, Клецку, Маляцічах, Менску, Мсціславе, Пінску, Ракаве, Рэчыцы, Смалянах, Стоўбцах, Хатаевічах, Чашніках, Шклове і інш. У 1782 праведзена рэарганізацыя Рус. правінцыі, у 1813 яна злучана з Літоўскай правінцыяй. Кляштар у Берасці ўваходзіў у склад Польскай правінцыі. У канцы 18 ст. ў Літоўскай і Рускай правінцыях існавала больш як 100 кляштараў і рэзідэнцый Д. Існавала і жаночая галіна ордэна, першыя іх кляштары створаны ў пач. 13 ст. На Беларусі вядомы жаночы кляштар у Новагародку. Самая вядомая манахіня гэтага ордэна — св. Кацярына Сіенская (Італія, 14 ст.).

*Літ.*: A b r a h a m W. Powstanie organizacyi kościoła łacińskiego na Rusi. T. 1. Lwów, 1904; K u r c z e w s k i J. Biskupstwo Wileń-



skie... Wilno, 1912; Wolyniak [Giżycki J.M.]. Wiadomości o dominikanach prowincyi litewskiej. Cz. 1. Kraków, 1917.

*Юрый Бажэнаў.*

**данатыва купецкая**, дзяржаўны падатак у Рэчы Паспалітай у 17—18 ст., якім абкладаліся гарады з магдэбургскім правам. Упершыню ўхвалены соймам у 1628 у памеры 50 тыс. злотых. У залежнасці ад прызначанай на горад сумы магістраты абкладалі купцоў падаткам у адпаведнасці з велічынёй іх маёмасці. Збор Д.к. адбываўся нерэгулярна.

*Валерый Пазднякоў.*

**Данелайціс** (Donelaitis) Крысціёнас (1.1.1714, в. Лаздзінеляй, Усх. Прусія—8.2.1780), літоўскі паэт, заснавальнік жанру байкі ў літоўскай літаратуры. Скончыў Каралявецкі ун-т (1740). З 1743 лютэранскі пастар у Толмінгене (Тальмінкеміс). Найб. значны твор — паэма «Поры года» (1765—75, апубл. 1818; перакладзена на многія мовы свету). У ёй шматгранна і рэалістычна паказаў працу, побыт, нар. звычаі, маляўнічую прыроду Літвы, раскрыў сац. супярэчнасці, стварыў яркія самабытныя характары. У яго байках (захавалася 6, апубл. ў 1824) крытыка чалавечых заган, пратэст супраць сац. і нац. прыгнёту.

*Тв.*: Raštai. Vilnius, 1977; Бел. пер. — Чатыры пары года. 2 выд. Мн., 1983.

*Літ.*: Довейка К. Кристионас Донелайтис. Вильнюс, 1963; Kuzmickas V. Kristijonas Donelaitis. Vilnius, 1983; Цейтлин Е. Голос и эхо. Калининград, 1989; Gineitis L. Kristijonas Donelaitis ir jo epocha. 2 leid. Vilnius, 1990.

**Даніла Раманавіч** (1201—64), князь галіцкі і валынскі. Сын Рамана Мсціславіча. З 1211 княжыў у Галічы (у 1212 выгнаны), з 1221—на Валыні. У 1229 завяршыў аб'яднанне валынскіх зямель, у склад якіх былі ўключаны бел. гарады Бярэсце, Кобрын, Камянец і падляшскія Бельск і Дарагічын; яму падпарадкоўваліся таксама тураўскія і пінскія князі. У 1223 удзельнічаў у бітве супраць мангола-татараў на р. Калка, быў паранены. Разбіў войска крыжакоў у *Дарагічынскай бітве 1237*. У 1238 канчаткова авалодаў Галічам, у 1239 — Кіевам, стаў вял. князем кіеўскім. Заснаваў гарады Львоў, Холм (зрабіў яго сталіцай княства), Угровеск і інш. Ваяваў супраць Польшчы і Венгрыі (1245), літоўскіх феадалаў, прымусіў яцвягаў плаціць яму даніну, канфліктаваў з навагародскімі князямі *Міндоўгам* і *Войшалкам*. Сын Д.Р. *Шварн* быў жанаты з дачкой Міндоўга, а другі сын — Раман — атрымаў ад Міндоўга Навагародскае, Ваўкавыскае і Свіслацкае княствы. Каб стварыць кааліцыю для барацьбы з мангола-татарамі, у 1254 прыняў ад рымскага папы карону караля галіцкага, каранаваўся ў Дарагічыне. Выступаў супраць пашырэння каталіцтва. У 1259 вымушаны быў прызнаць залежнасць ад татараў і ў 1260—61 знішчыць гар. ўмацаванні ў княстве. У перыяд княжання Д.Р. Галіцка-Валынскае княства дасягнула значнага эканам. і паліт. росквіту, пашырыўся яго ўплыў на бел. землі.

*Літ.*: Дашкевич Н. Княжение Даниила Галицкого по русским и иностранным известиям. Киев, 1873; Пашуто В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990; Котляр М. Данило Галицький: Біографічний нарис. Київ, 2002.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Даніловіч** Ігнат Мікалаевіч [30.7(10.8).1787, в. Грынявічы Бельскага пав. Падляшскага ваяв., Польшча—30.6(12.7).1843], гісторык і правазнавец, адзін з першых даследчыкаў летапісных і заканадаўчых помнікаў Беларусі і Літвы. Праф. (1822). З сям'і бел. уніяцкага святара. Скончыў Віленскі ун-т (1812), дзе ў 1814—24 выкладаў права. Пасля раскрыцця т-ва філаматаў звольнены з працы, пакінуў Вільню, бо яму забаранілі жыць на тэр. Літвы і Беларусі. У 1825—29 праф. Харкаўскага ун-та; у 1830—35 працаваў у Пецярбургу ў камісіі М.М.Сперанскага па падрыхтоўцы збору мясц. законаў для зах. губерняў. У 1835—42 выкладаў права ў Кіеўскім і Маскоўскім ун-тах. Як вучоны і грамадзянін сфарміраваўся ў часы вучобы і працы ў Віленскім ун-це ў вольналюбівым патрыятычным асяроддзі, у якім панавала глыбокая павага і цікавасць да мінуўшчыны краю. Займаўся зборам, вывучэннем і публікацыяй пісьмовых крыніц па гісторыі Беларусі і Літвы. Упершыню апісаў усе рукапісныя і друкаваныя экземпляры Статута ВКЛ, падрыхтаваў першае навук. выданне Статута ВКЛ 1529 (у 1841 апубл. А.Т. Дзялынскім у *«Зборы літоўскіх законаў з 1389 да 1529»*). У працы «Гістарычны агляд літоўскага заканадаўства» (1837) даў характарыстыку гіст. развіцця права ў Беларусі і Літве, першы спрабаваў высветліць яго крыніцы і сувязь са стараж.-рус. і зах.-еўрапейскім заканадаўствам, сцвярджаў самабытны характар права ВКЛ. Упершыню апублікаваў бел.-літоўскі летапіс 1446 паводле рукапісу 1519, які ў 1822 разам з М.К.Баброўскім выявіў у б-цы Супрасльскага манастыра (гл. *Супрасльскі летапіс*); перавыдадзены асобна пад назвай «Летапісец Літвы і руская хроніка» (1827). Працы Д. «Пра літоўскія летапісы» (1840) і «Паведамленне пра сапраўдных літоўскіх летапісцаў» (1841) далі пачатак навук. даследаванням бел.-літ. летапісання. Сваімі публікацыямі канчаткова развеяў сумненні асобных вучоных пра існаванне ў ВКЛ летапісання і даказаў, што беларусы і літоўцы ўжо ў 15 ст. мелі сваіх гісторыкаў. Разам з М.А.Абаленскім падрыхтаваў і выдаў *«Кнігу пасольскую метрыкі Вялікага княства Літоўскага»* (т. 1, 1843). У *«Скарбніцы грамат»* (т. 1—2, 1860—62, выдадзены Я.Тышкевічам у Вільні) апісаў, пераказаў змест і часткова апублікаваў каля 2500 розных пісьмовых крыніц па гісторыі Беларусі і Літвы ад выпісак з Герадота да актаў 1569. Марыў пра адраджэнне літоўска-бел. дзяржавы і мовы Статутаў ВКЛ.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973; Яго ж. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**даніна**, павіннасць сялян пераважна натуральнай прадукцыяй, адна з асноўных форм феадальнай эксплуатацыі сялянства ў сярэдневякоўі. На Русі вядома з 9 ст. спачатку як дзярж. падатак — кантрыбуцыя з заваяваных народаў, потым — як дзярж. падатак і феад. рэнта (датаванне трансфармацыі Д. ў феад. рэнту застаецца дыскусійным). На Беларусі ва ўмовах панавання натуральнай гаспадаркі прыкладна да канца 15 ст. асн. формай рэнты была Д. (у зах. частцы Беларусі звычайна называлася *дзякла*) — прадукцыя сял. гаспадарак, якая часткова спалучалася з адработачнай і грашовай формамі рэнты. Пераважнай катэгорыяй сялянства ў гэты перыяд былі *даннікі*, а асн. адзінкай іх абкладання з'яўлялася сял. гаспадарка — *дым*. Склад і памеры Д. былі разнастайныя, спачатку ў ёй пераважала прадукцыя промыслаў (мёд, воск, футра), пазней — с.-г. прадукцыя (жыта, авёс, гусі, куры, яйкі, лён, каноплі, сена і інш.). Д. збожжам у выглядзе чацвёртай часткі (долі) ураджаю з'яўля-

лася гал. павіннасцю сялян-*дольнікаў*, якіх было найбольш у Падзвінні. Да сярэдзіны 16 ст. ў басейнах сплаўных рэк — Буга, Нёмана і часткова Дзвіны — Д. ў значнай ступені выцеснена пераважна адработачнай і часткова грашовай формамі рэнты. У Падняпроўі ў гэты час адбываўся працэс частковай або поўнай замены традыцыйнай Д. натурай, перш за ўсё футрам, на Д. прадукцыяй сельскай гаспадаркі і ў значнай ступені грашамі. Да канца 16 ст. Д. як гал. павіннасць захавалася толькі ў глухіх лясістых, балоцістых і значна аддаленых ад вял. гандлёвых цэнтраў мясцовасцях. У далейшым яна складала толькі частку асн. павіннасцей паншчынных (гл. *Цяглыя сяляне*) і чыншавых (гл. *Асадныя сяляне*) сялян.

*Літ.*: Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: Ист. очерки. М., 1892; Леонтович Ф.И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1. СПб., 1897; Довнар-Запольский М.В. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Т. 1. Киев, 1901; Яго ж. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI в. Киев, 1905; Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Яго ж. Форма земельної ренти і розмір визиску селян України та Білорусії (в XV—першій половині XVI ст.) в радянській історіографії // Укр. іст. журн. 1973. № 11; Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Козловский П.Г. Крестьяне Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в.: (По материалам магнатских вотчин). Мн., 1969; Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991; Jurkiewicz J. Powinności włościan w dobrach prywatnych w Wielkim Księstwie Litewskim w XVI—XVII w. Poznań, 1991; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**даннікі**, «людзі данныя», катэгорыя феадальна-залежных сялян ВКЛ у 14—16 ст., галоўнай павіннасцю якіх была *даніна* прадукцыяй сялянскіх гаспадарак. Яна спалучалася з інш. павіннасцямі ў выглядзе розных работ (касьба, прадастаўленне падвод, будаўніцтва і рамонт замкаў і інш.), а таксама розных плацяжоў грашамі. Асн. адзінкай абкладання феад. павіннасцямі служыў *дым* (сял. гаспадарка), але валашчане (члены сельскіх і валасных абшчын) неслі калектыўную адказнасць за спраўнае выкананне ўсіх устаноўленых павіннасцей. Да канца 15 ст. Д. былі пераважнай катэгорыяй сялян, аднак далейшае развіццё таварна-грашовых адносін, рост сувязей сельскай гаспадаркі з унутраным і асабліва са знешнім рынкам абумовілі працэс паступовай рэарганізацыі сістэмы феад. эксплуатацыі сялянства. Да сярэдзіны 16 ст. на З і часткова ПнУ тэр. Беларусі Д. паступова ператварыліся ў паншчынных (гл. *Цяглыя сяляне*) і чыншавых (гл. *Асадныя сяляне*) сялян. У 1-й пал. 16 ст. асноўным рэгіёнам Д. паранейшаму заставалася Падняпроўе, дзе пераважалі дзярж. (гаспадарскія) уладанні: Бабруйская, Гомельская, Крычаўская, Любашанская, Магілёўская, Мазырская, Прапойская, Рэчыцкая, Свіслацкая, Чачэрская і інш. воласці. Аднак і тут адбываўся працэс частковай або поўнай замены даніны грашамі. У выніку аграрнай рэформы 1560 Д. гаспадарскіх падняпроўскіх валасцей ператвараліся ў *чыншавых сялян*.

*Літ.*: Ефименко А. Южная Русь: Очерки, исслед. и заметки. СПб., 1905. Т. 1. С. 424—436; Пичета В.И. Аграрная реформа Сигизмунда-Августа в Литовско-Русском государстве. [2 изд.] М., 1958; гл. таксама да арт. *Даніна*.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Дарагабуж** (рус. Дорогобуж, цяпер горад, цэнтр Дарагабужскага р-на Смаленскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад у Смаленскім ваяв., на р. Дняпро. Упершыню ўпамінаецца ў 1136 сярод смаленскіх валасцей. Відаць, уваходзіў у склад *Вяземскага княства* (калі ў 1300 смаленскі князь Аляксандр Глебавіч узяў Д. у аблогу, на дапамогу гораду прыйшоў вяземскі князь Андрэй Міхайлавіч). Каля 1345 вяземскі і дарагабужскі князь Фёдар Святаславіч выдаў дачку за маскоўскага князя Сямёна Гордага, пакінуў свае ўладанні і атрымаў вотчыну ў Волаку Ламскім. Разам са Смаленскам і Вязьмай Д. далучаны ў 1403—04 да ВКЛ. У складзе ВКЛ статус Д. паступова мяняўся. Некат. час княжыў мясцовы князь Андрэй Дзмітрыевіч, з 1440-х г. Д. быў вотчынай троцкага ваяводы Яна Гаштольда, потым яго сына Марціна. З канца 1480-х г. вядомы як намесніцтва. Вядомы намеснікі Ц.У.Масальскі і Ф.І.Адоеўскі (з 1494). Прыкладна з 1497 Д. зноў, відаць, стаў вотчынным уладаннем Гаштольдаў. У маі—чэрв. 1500 захоплены маскоўскім войскам на чале з Ю.З.Кошкіным. Каля Д. адбылася *бітва на Вядрошы 1500*. Паводле перамір'я 1503 Д. у складзе Вял. княства Маскоўскага. У ходзе вайны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1507—08 Д. заняты гетманам ВКЛ С.Кішкам. Паводле міру 1508 і перамір'яў 1522 і 1537 Д. заставаўся за Маскоўскай дзяржавай. З 1618 Д. зноў у складзе ВКЛ, паводле Андросаўскага перамір'я 1667 адышоў да Расіі.

*Літ.*: Виноградов И.П. Исторический очерк города Вязьмы с древнейших времен до XVII в. (включительно). М., 1890; Любавский М.К. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892]; Кром М.М. Меж Русью и Литвой: Западнорусские земли в системе русско-литовских отношений конца XV—первой трети XVI в. М., 1995.

***Віктар Цемушаў.***

**Дарагастайскі** (Монвід-Дарагастайскі) Крыштоф Мікалай (2.3.1562—3.8.1615), дзяржаўны дзеяч ВКЛ. Паходзіў з роду *Дарагастайскіх*. Вучыўся ў гімназіі Яна Штурма ў Страс-




К.М.**Дарагастайскі**.
Гравюра І.Садэлара. Прага, 1605.

бургу і ў Фрыбурга-Брызгоўскай акадэміі, дзе атрымаў ступень доктара медыцыны. Стольнік ВКЛ у 1588—90, крайчы ВКЛ у 1590—92, падчашы ВКЛ у 1592—97, вял. маршалак ВКЛ з 1597; староста ваў-



кавыскі, шарашоўскі, вяленьскі, мсцібаўскі, навамлынскі, дынемундскі, арандатар ялаўскі і курылаўскі. Удзельнічаў у вайне з Нідэрландамі, за баявыя заслугі атрымаў тытул барона «Свяшчэннай Рымскай імперыі». Падарожнічаў па Еўропе, найбольш па Італіі, стаў ганаровым грамадзянінам Венецыі. У апошнія гады праўлення караля Стафана Баторыя актыўна ўдзельнічаў у *Інфлянцкай вайне 1558—82* з Масковіяй. Пасля смерці караля некаторы час уваходзіў у прамаскоўскую паліт. групоўку, 9.8.1587 у мяст. Акунёва пад Варшавай разам з сенатарамі ВКЛ вёў перагаворы з маскоўскімі пасламі пра абранне на трон Рэчы Паспалітай вял. князя маскоўскага Фёдара Іванавіча і ўтварэння уніі 3 дзяржаў: ВКЛ, Кароны і Вял. княства Маскоўскага. Падтрымліваў габсбургскую палітыку Жыгімонта III Вазы, спрыяў яго шлюбу з Ганнай Аўстрычкай. У *вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* адыграў гал. ролю ў перамогах пад Какенгаўзенам і Дыяментам (1601). На сойме 1605 выступаў супраць падтрымкі Лжэдзмітрыя I, аднак у 1609 далучыўся да падрыхтоўкі маскоўскага паходу Жыгімонта III. Перад генеральным штурмам Смаленска (1611) камандаваў часткай паўн. аблогавай арміі, адзін з першых уварваўся ў крэпасць, быў паранены. Быў тройчы жанаты: з Соф'яй, дачкой віленскага кашталяна Я.Г.Хадкевіча, з Соф'яй з Радзівілаў, удавой крайчага ВКЛ Ю.Хадкевіча (меў з ёй дачку Дароту і сына Уладзіслава), з Аляксандрай з Верашчакаў. Вызнаваў кальвінізм. Адстойваў інтарэсы шляхты ВКЛ, у т.л. правы і свабоды пратэстантаў, патрабаваў выгнання езуітаў з каралеўскага двара. У 1615 у маёнтку Мураваная Ашмянка фінансаваў выданне «Цэнзуры...», палемічнага твора ў 6 частках мясц. кальвініcцкага прапаведніка В.Салінарыуса, скіраванага супраць арыян (гл. *Ашмянская друкарня*). Найб. вядомасць Д. прынесла «Гіпіка, альбо Кніга пра коней» (Кракаў, 1603) — першы ў Рэчы Паспалітай дапаможнік па конегадоўлі і коннай яздзе (неаднаразова перавыдаваўся). «Гіпіка» ілюстравана гравюрамі Т.*Макоўскага*, складаецца з 4 кніг (частак): 1-я распавядае пра міфалагізаваную гісторыю коннай язды, конскія масці і прыкметы, пра распладжванне коней, 2-я прысвечана пачатковай падрыхтоўцы баявых, рыцарскіх коней, а таксама змяшчае апісанне стайні і патрабаванні да слуг, у 3-й паказаны ўзоры муштукоў і цугляў, 4-я — ветэрынарны лячэбнік. Д. выкарыстаў працы антычных і сучасных яму аўтараў, а таксама багаты ўласны вопыт, упрыгожыў тэкст цытатамі з рымскіх паэтаў Вергілія і Марцэла. У Нац. б-цы імя Асалінскіх у Вроцлаве захоўваюцца рукапісныя юнацкія сачыненні Д. на польск., лац. і стараж.-грэчаскай мовах, яго асобныя дакументы. Лісты Д. таксама захоўваюцца ў Нац. б-цы ў Варшаве, Гал. архіве стараж. актаў, Б-цы Польскай АН і інш.

*Літ.*: Żygota P. Krzysztof Moniwid Dorohostajski // Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne. 1894, № 3—4; Jankowski C. Powiat Oszmiański: Materjały do dziejów ziemi i ludzi. Cz. 1. Petersburg, 1896; Парэцкі Я. І. «Гіпіка» Дарагастайскага // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 3; Urbańska E. *Hippika* i inne utwory literackie Krzysztofa Moniwida Dorohostajskiego (1562—1615) // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 2003. T. 9.

***Святлана Ішчанка.***

**Дарагастайскія**, Монвіды-Дарагастайскія, шляхецкі род герба «Ляліва». Галіна *Аляхновічаў*, маюць адно паходжанне з родамі *Забярэзінскіх*, Кухмістровічаў і Іжыкавічаў. Прозвішча ад маёнтка Дарагастаі (Дарагастай) у Луцкім пав. Вызнавалі кальвінізм. Карысталіся прыдомкам Монвід ад імя сваяка Манівіда, што жыў у 14—15 ст. Найб. вядомыя:

Мікалай (Аляхновіч; каля 1530—28.1.1597), сын Мікалая Пятровіча Аляхновіча (Кухмістровіча). Каралеўскі дваранін, стольнік ВКЛ у 1566—76, ваявода полацкі з 1567; цівун гандынскі з 1566, дзяржаўца вяленскі, шарашэўскі з 1574, бейсагалаўскі, староста ваўкавыскі з 1576, лепельскі. Прызначэнне яго на пасаду ваяводы полацкага без згоды мясц. шляхты выклікала абурэнне ў Полацкім ваяв. Удзельнічаў у падрыхтоўцы і выпраўленні Статута ВКЛ 1566. Быў прыхільнікам заключэння Люблінскай уніі 1569. Прыняў удзел у Інфлянцкай вайне 1558—82, ва ўзяцці ў 1579 Полацка (прызначаны там камендантам замка), Сушы, Няшчэрды, у 1580 — Невеля. Валодаў маёнткамі ў Ашмянскім, Менскім, Упіцкім, Вількамірскім, Віленскім пав., Жамойці. У 1567 выстаўляў у войска ВКЛ 36 коннікаў і 18 драбаў. Фінансаваў выданне ў Лоску кнігі А.Фрыч-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай» (1577). У шлюбе з Ганнай Войнай




Герб **Дарагастайскіх**.
Гравюра з кн. А.Фрыч-Маджэўскага «Аб удасканаленні Рэчы Паспалітай». Лоск, 1577.

меў сыноў Крыштофа Мікалая і Пятра, дачку Раіну.

Крыштоф Мікалай (1562—1615), сын Мікалая, гл. М.К.*Дарагастайскі*.

Пётр (?—1611), сын Мікалая. Кашталян менскі ў 1597—1600, ваявода мсціслаўскі ў 1600—05 і смаленскі з 1605.

Уладзіслаў (1611—май 1638), сын Крыштофа Мікалая. Выхоўваўся гетманам К.Радзівілам. У 1628—29 вучыўся ў пратэстанцкай гімназіі ў Лешне (Польшча) у Я.А.Каменскага, у 1632—33 — у Германіі і Галандыі (Франекен, Лейдэн). Староста жыжморскі, пасол на сойм 1634, маршалак Трыбунала ВКЛ 1636, чашнік ВКЛ з 1636.

***Валерый Пазднякоў.***

**Дарагічын** (польск. Драгічын, Drohiczyn, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Падляшскім ваяв., на р. Буг. Вядомы з 11 ст. У 11—12 ст. уваходзіў у склад Турава-Пінскага княства, потым належаў Галіцка-Валынскаму княству, цэнтр Дарагічынскай зямлі (гл. ў арт. *Дарагічынскі павет*). У 1230-х г. Д. захапіў мазавецкі кн. Конрад, які перадаў горад дабжынскім рыцарам. Галіцка-валынскі кн. Даніла Раманавіч у *Дарагічынскай бітве 1238* разбіў рыцараў і вярнуў горад пад сваю ўладу. У 1254 ён тут каранаваўся каралеўскай каронай. У 1274 горад заняты войскам літоўскага кн. Трайдзеня, затым спусто-





Пячатка магістрата **Дарагічына**. 1791.

шаны мангола-татарамі. Паводле *дагавора 1325* паміж вял. князем літоўскім Гедзімінам і польскім каралём Уладзіславам І Лакаткам, Падляшша з Д. прызнавалася за ВКЛ. У 1390 мазавецкі кн. Януш захапіў Д., у 1391 Ягайла падараваў яму горад, вернуты ў ВКЛ у 1405. 4.10.1498 Д. атрымаў магдэбургскае права. З 1520 у Падляшска-Берасцейскім (Падляшскім) ваяв. У 16 ст. ў Д. існавалі Праабражэнскі і Троіцкі манастыры, цэрквы Багародзіцы, Варвары і Ільі. У 1566—1795 цэнтр *Падляшскага ваяводства*. Пасля Люблінскай уніі 1569 у складзе Польскага каралеўства, уладанне Кішкаў. У час *Паўночнай вайны 1655—60* у 1657 разбураны разам з замкам шведска-трансільванскім войскам. У 17—18 ст. існавала правасл. Мікалаеўска-Праабражэнскае брацтва. У 1646—1747 у Д. знаходзілася езуіцкая рэзідэнцыя, у 1747—73 — калегіум (школа працавала з 1661, меліся муз. бурса, б-ка, аптэка, дзейнічаў тэатр). У 1696—1709 езуіты пабудавалі касцёл Св. Тройцы. У сярэдзіне 18 ст. пабудаваны кляштар бенедыкцінак і францысканцаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Дарагічынская бітва 1238**. Адбылася паміж нямецкімі рыцарамі і войскам галіцка-валынскага князя Данілы Раманавіча ў г. *Дарагічын* (Падляшша). У 1237 польскі князь Конрад Мазавецкі перадаў раней заняты ім Дарагічын дабжынскім рыцарам на чале з магістрам Бруна. Тут пасялілася тая частка Дабжынскага ордэна, якая не ўвайшла ў 1235 у Тэўтонскі ордэн і захавала самастойнасць. Гэтым актам Конрад спрабаваў замацавацца ў Берасцейскай зямлі і стварыць фарпост абароны ад Літвы. Вясной 1237 Даніла Раманавіч падрыхтаваў паход на яцвягаў, каб умацаваць свае тылы, аднак з-за вял. паводкі не змог яго ажыццявіць. Тады ён з войскам рушыў на Дарагічын, каб выбіць ням. рыцараў. З'явіўшыся пад горадам у сак. 1238 «в силе тяжце», Даніла Раманавіч перамог дабжынцаў і захапіў у палон магістра Бруна. Вынікам перамогі стаў антыпольскі саюз, заключаны паміж Данілам Раманавічам і літ. князем Міндоўгам. У 2-й пал. 1238 ваяваць Мазовію хадзілі са сваімі войскамі Міндоўг і навагародскі кн. Ізяслаў. Конрад адмовіўся ад тэр. дамаганняў да Галіцка-Валынскага княства.

*Літ.*: П а ш у т о В.Т. Очерки по истории Галицко-Волынской Руси. М., 1950; Полное собрание русских летописей. Т. 2. М., 1962; Г о л о в к о А.Б. Древняя Русь и Польша в политических взаимоотношениях X—первой трети XIII вв. Киев, 1988.

***Генадзь Сагановіч.***

**Дарагічынскі павет**, Д а р а г і ч ы н с к а я з я м л я, адм.-тэр. адзінка ў ВКЛ і Польскім каралеўстве ў складзе *Падляшскага ваяводства*. Цэнтр — г. *Дарагічын*. У 12—13 ст. землі павета ўваходзілі ў склад *Галіцка-Валынскага княства*, у пач. 14 ст., пры вял. князю Гедзіміне, увайшлі ў склад ВКЛ. Некаторы час належалі мазавецкім князям. У пач. 15 ст. Вітаўт далучыў Д.п. да ВКЛ, паваліўшы яго за кошт іншых былых мазавецкіх земель (Ганязь, Райгарад, Тыкоцін). У 1440—44 Д.п. зноў у складзе Мазовіі. На дарагічынскую шляхту былі пашыраны прывілеі польскай шляхты (права на пэўнае самакіраванне і інш.). У 1440 прывілеі дарагічынскай шляхце выдаў мазавецкі князь Баляслаў IV. Пры вяртанні Д.п. ў склад ВКЛ (1444) вял. князь літоўскі Казімір пацвердзіў прывілеі мясц. шляхты, каля 1492 гэта зрабіў і вял. князь Аляксандр. Прывілеем 1516 Жыгімонт Стары даў дарагічынскай шляхце поўнае польскае права. У 2-й пал. 15 ст. са складу Д.п. вылучыўся *Бельскі павет*. У склад Д.п. ўліўся Венграўскі пав., а ў 1520-х г. вылучыўся *Мельніцкі павет*. З 1513 Д.п. у складзе Падляшска-Берасцейскага (Падляшскага) ваяв., дзе займаў першынство (Дарагічын быў цэнтрам ваяводства). Пры заключэнні *Люблінскай уніі 1569* Д.п. увайшоў у склад Польскага каралеўства. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі і Аўстрыі.

***Валерый Пазднякоў.***

**Дарафеевіч-Рытарайскі** Каліст, гл. *Каліст*.

**Дарашкевіч** Віктар Іванавіч (9.6.1949, в.Сасновы Бор Шчучынскага р-на—12.10.2003), беларускі літаратуразнавец, крытык, тэкстолаг, перакладчык. Канд. філал. навук (1977). Скончыў БДУ (1971). У 1974—78, 1982—90 працаваў у Ін-це л-ры АН Беларусі, у 1978—82 вучоны сакратар Савета па каардынацыі навук. дзейнасці пры прэзідыуме АН Беларусі. Даследаваў гісторыю стараж.-бел. л-ры, лацінамоўную л-ру Беларусі і Літвы 15—18 ст. Падрыхтаваў да друку паэму М.Гусоўскага «Песня пра зубра» (1980). Укладальнік зб-ка дакументаў і матэрыялаў «Францыск Скарына» (1988) і аўтар навук. каментарыя да яго.

*Літ.*: Лацінскія кнігі ў прыватных бібліятэках на Беларусі і ў Літве (першая палова XVI ст.) // Из истории книги в Белоруссии. Мн., 1976; «Песня пра Нёман» Адама Шротэра з Сілезіі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1977. № 2; Новолатинская поэзия Белоруссии и Литвы. Мн., 1979.

**Дарашэвіч** Энгельс Канстанцінавіч (н. 26.10.1931, г. Мінск), беларускі філосаф. Д-р філас. навук (1984), праф. (1992). Скончыў БДУ (1953). З 1958 у Ін-це філасофіі і права, з 1990 у Ін-це сацыялогіі Нац. АН Беларусі. Даследуе гісторыю эстэт. думкі, культуры, філасофіі, педагогікі Беларусі, міжнац. адносіны. Адзін з аўтараў навуч. дапаможнікаў для ВНУ па культуралогіі, этнасацыялогіі, этнапедагогіцы. Дзярж. прэмія Беларусі 1984 за ўдзел у напісанні цыкла работ па гісторыі філасофіі і грамадскай думкі Беларусі, апублікаваных у 1973—80.

*Тв.*: Аниол Довгирд — мыслитель эпохи Просвещения. Мн., 1967; Философия эпохи Просвещения в Белоруссии. Мн., 1971; Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. М., 1972 (з У.М.Конанам); Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: Са старажытных часоў да 1917 г. Мн., 1985 (у сааўт.); Антология педагогической мысли Белорусской ССР. М., 1986 (у сааўт.).

**Дарэці** (Doretti) Ігнацій (13.3.1703, Прага—31.5.1768), мастак. Вывучаў філасофію і цывільнае права, а таксама




Поўны гатычны **даспех** з закрытым шлемам-прылбіцай: 1 — грэбень; 2 — звон; 3 — зрокавая шчыліна (відзра); 4 — заслона; 5 — палічка; 6 — падбароднік; 7 — шчыток; 8 — абойчык; 9 — гак (крук для мацавання кап'я); 10 і 11 — кіраса (нагруднік і наспіннік); 12 і 13 — спаднічка (фартух і ахова паясніцы); 14 — ташка; 15 — наруч; 16 — наплечнік; 17 — апаха; 18 — налакотнік; 19 — крыльца налакотніка; 20 — зарукаўе; 21 — рукавіца; 22 — поўная ахова нагі; 23 — набедранік; 24 — накаленнік; 25 — нагалёначнік; 26 — чаравік.



«Максімілянаўскія» **даспехі** на рыцара і каня. 1-я чвэрць 16 ст. (асобныя часткі са збраёўні Радзівілаў у Нясвіжы).

мастацтва ў Празе, валодаў чэшскай, ням., франц., італьян., лац., польскай мовамі. У 1736 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў, з 1739 ксёндз. Аўтар размалёвак шэрагу касцёлаў Малапольскай правінцыі езуітаў. Дакументальна вядома яго праца ў 1737, 1741—43, 1748 па афармленні інтэр'ера і трапезнай касцёла св. Ігнацыя і дома навіцыяту ў Вільні. У 1748—49 наглядаў за перабудовай калегіума ў Ломжы. Прафесар франц. мовы ў Менскім (1749—50) і Пінскім (1751—54) езуіцкіх калегіумах, у 1754—62 місіянер у Кабыльцы пад Варшавай, у 1763—66 прэфект касцёла ў Экімані пад Полацкам. Памёр у Полацку. Відаць, Д. зрабіў размалёўку касцёла св. Францыска Ксаверыя ў Гародні (1752). Стыль мастака адпавядае позняму барока.

*Вольга Бажэнава.*

**даспехі**, від *засцерагальнага ўзбраення* ў сярэдневякоўі, прызначаны для аховы цела воіна ад халоднай зброі. Шырока ўжываліся на землях ВКЛ. Да канца 14 ст. былі пашыраны Д. ў выглядзе камізэлькі, набранай з невялікіх, пераважна прамавугольных, пласцінак, якія злучаліся паміж сабой пры дапамозе раменьчыкаў або мацаваліся да мяккай асновы. Пласцінкі наборнага Д. маглі размяшчацца ўпрытык адна да адной ці ўнахлёст (т.зв. лускаватыя Д.). З удасканаленнем наступальнага ўзбраення на З Еўропы з 13 ст. пашырыліся элементы аховы цела, зробленыя з буйных металічных частак, што закрывалі найб. даступныя месцы — калені, локці і г.д. У канцы 14—пач. 15 ст. ўзніклі пласцінавыя, ці суцэльнакаваныя (поўныя) Д., якія закрывалі воіна з ног да галавы. У ВКЛ з апошняй чвэрці 14 ст. паяўляюцца металічныя накаленнікі, налакотнікі, рукавіцы, наплечнікі, наручы, набедранікі, нагалёначнікі, спаднічка і інш. Торс воіна ў канцы 14 ст. ахоўвала выпуклая кіраса з некалькіх вял. частак, абцягнутая тканінай. У пач. 15 ст. яна складалася з 2 вял. блях — нагрудніка і наспінніка, тэкстыльнае пакрыццё ў гэты час не рабілі. Поўныя Д., вядомыя пад назвамі «зброя» або «зброя бляхавая», праіснавалі ў ВКЛ у асн. да 17 ст. У камплекце да падобных Д. насілі шлемы розных тыпаў — закрытыя з рухомай заслонай (прылбіцы), капаліны ў выглядзе капелюша з апушчанымі палямі, а таксама разнастайныя адкрытыя шлемы (сфераканічныя, баскінеты-лебкі і штурмгабы). Найб. багатыя магнаты мелі высакаякасныя імпартныя Д., аднак існаваў і мясц. выраб «зброі», у т.л. і баявога пакрыцця коней. Акрамя баявых выкарыстоўвалі спец. турнірныя Д., часам у выглядзе асобных масіўных



Эмаліраваныя **даспехі** М.Радзівіла Чорнага. Каля 1550.

дэталей для звычайнага ўзбраення. У пач. 16 ст. ў ВКЛ, як і ва ўсёй Еўропе, пашырыліся «максімілянаўскія» Д., паверхня якіх была гафрыраваная і з частымі баразнамі, што павышала ахоўныя якасці. З 2-й пал. 16 ст. з пашырэннем агнястрэльнай зброі і зменамі ў тактыцы Д. пачалі рабіць больш лёгкімі за кошт меншай аховы рук і ног. Паявіліся паўдаспехі

ў камплекце з адкрытым штурмгабам або шышаком. На працягу 17 ст. суцэльнакаваныя Д. паступова выцясняліся традыцыйнымі лускаватымі, якія атрымалі назву *«карацына»*, а таксама лягчэйшай кальчугай. Аднак у падраздзяленнях цяжкой кавалерыі (гусары) Д. ў аблегчаным варыянце выкарыстоўвалі да канца 17 і нават 18 ст.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 4. С. 214—224; Kwaśniewicz W. 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. [2 wyd.]. Warszawa, 1989. S. 278—290; Uzbrojenie w Polsce średniowiecznej, 1350—1450. Łódź, 1990. S. 31—92; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982. S. 201—203; Bersohn M. Dawna zbrojownia Książąt Radziwiłłów z Nieświeżu. Warszawa, 1904.

***Юрась Бохан.***

**Дастаеўскія**, шляхецкі род уласнага герба («Радван» зменены). Вядомы з канца 15 ст., жылі на Піншчыне, дзе валодалі некалькімі дробнымі маёнткамі, у 17 ст. перасяліліся на Валынь і ў Навагародскае ваяв. Родапачынальнікам з'яўляецца Даніла Іванавіч Ірцішчавіч, які ў 1506 атрымаў ад пінскага кн. Фёдара Іванавіча Яраславіча некалькі двароў, у т.л. ў Дастоеве. На попіс войска ВКЛ 1528 ён ставіў 1 конніка. Меў сыноў Івана Данілавіча, які валодаў зямлёю ў сяле Ляхавічы (1522), Сямёна Данілавіча Арцішчавіча (Ірцішчавіча; згадваецца ў 1566). Сасін Іванавіч Д. ставіў конніка на попіс войска ВКЛ 1567, а Фёдар Іванавіч Данілавіч Д. на попіс 1565 «2 кони — збройна, по гусарску, а драба з лучъницою на кони», служыў ён у кн. Андрэя Міхайлавіча Курбскага. Пасля прозвішча Д. стала замацоўвацца за прадстаўнікамі роду.

Найб. вядомыя: Пётр, маршалак пінскі (1598—99); Яраш, падстараста оўруцкі (1604); Пётр, суддзя гродскі пінскі (1627—32); Бенядзікт, падчашы пінскі (з 25.VI. 1635); Андрэй, харужы валынскі (1649).

Відаць, з гэтага роду паходзіць рус. пісьменнік Фёдар Міхайлавіч Д. (1821—81).

*Літ.*: Boniecki A. Herbarz polski. Warszawa, 1901. T. 4. S. 391; Волоцкой М.В. Хроника рода Достоевского, 1506—1933. М., 1933.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Даўгалеўскі** Мітрафан, гл. *Мітрафан.*

**Даўгяла** Дзмітрый Іванавіч [20.10(1.11).1868, в. Казьяны Гарадоцкага пав. Віцебскай губ., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл.—крас. 1942?], беларускі гісторык, архівіст, археограф, крыніцазнавец. З сям'і протаіерэя. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію (1894), атрымаў навуковую ступень кандыдата багаслоўя. Адначасова прайшоў курс навучання ў Пецярбургскім археалагічным ін-це. Выкладаў у духоўнай семінарыі і мужчынскай гімназіі ў Віцебску. З 1897 архіварыус Віцебскага цэнтр. архіва старажытных актавых кніг. Пасля зліцця ў 1903 архіва з Віленскім цэнтр. архівам старажытных актавых кніг пераехаў у Вільню, дзе адначасова з працай у якасці памочніка архіварыуса архіва старажытных актавых кніг выкладаў у навучальных установах, выконваў абавязкі члена камісіі па стварэнні Віленскай публічнай б-кі, рэдагаваў газету «Белая Русь» (1906). У 1906—15 член Віленскай археаграфічнай камісіі (з 1913 старшыня), кіраўнік спраў канцылярыі папячыцеля Віленскай навучальнай акругі, кіраўнік спраў Паўн.-Зах. аддзела Рускага геаграфічнага т-ва, рэдактар «Записок Северо-Западного отдела Русского географического общества» (кн. 1—4, Вільня, 1910—14), ганаровы член Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (з 1909). З 1915 у Магілёве, працаваў у школах, губернскім архіве. Удзельнік Усебеларускага з'езда 1917. З 1919 упаўнаважаны Гал. ўпраўлення архіўнай справы Наркамасветы РСФСР па Магілёўскай губ., в.а. загадчыка Магілёўскага губернскага архіўнага бюро, в.а. загадчыка Магілёўскага губ. архіва. У 1925 па запрашэнні кіраўніцтва Ін-та бел. культуры пераехаў у Мінск, працаваў вучоным сакратаром Гіст.-археалагічнай (з 1925), потым Археаграфічнай (з 1927) камісій Інбелкульта. У 1925 уваходзіў у склад Дзярж. камісіі па вяртанні бел. архіваў з РСФСР. З 1925 дацэнт БДУ (чытаў курс крыніцазнаўства гісторыі Беларусі), з 1929 дырэктар б-кі, з 1937 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі Бел. АН. 10.12.1937 арыштаваны і па пастанове пазасудовых органаў ад 11.9.1939 высланы ў Казахстан на 5 гадоў. Знаходзіўся ў кішлаку Пахта-Арал Чымкенцкай вобл., дзе, паводле некаторых звестак, і памёр. Рэабілітаваны 9.6.1964.

Д. зрабіў значны ўклад у вывучэнне гісторыі ВКЛ. Ён быў складальнікам і рэдактарам апошніх тамоў *«Гісторыка-юрыдычных матэрыялаў»* (т. 27—32, Віцебск, 1899—1906), удзельнічаў у падрыхтоўцы да выдання *«Актаў Віленскай камісіі»* (т. 32—37, Вільня, 1907—12), рэдактарам і складальнікам *«Беларускага архіва»* (т. 1—3, Мінск, 1927—30) і адным са складальнікаў 1-га тома дакументальнага выдання хрэстаматыйнага тыпу «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах» (Мінск, 1936). Падрыхтаваныя да друку пад яго кіраўніцтвам зборнікі дакументаў вызначаліся высокім навук. узроўнем. На 1-м з'ездзе даследчыкаў бел. археалогіі і археаграфіі (1926) выступіў з дакладам «Літоўская Метрыка і яе каштоўнасць для вывучэння мінуўшчыны Беларусі», у якім змяшчаўся грунтоўны аналіз асноўных відаў дакументаў, якія складалі архіў велікакняжацкай канцылярыі, прыводзіліся арыгінальныя даныя па гісторыі фарміравання Метрыкі і яе лёсу. Даследаваў гісторыю і гіст. тапаграфію полацкіх, Барысаўскага, Свіслацкага, Аршанскага замкаў. Аўтар прац па гісторыі гарадоў і мястэчак Беларусі.

*Тв.*: К истории православной Западнорусской церкви до половины 17 века. Вильна, 1908; Пинский Лещинский Монастырь в 1588 г. // Минская старина. Мн., 1909. Вып. 1; Город Борисов (Минской губернии) // Зап. Сев.-Зап. отдела Имп. Рус. Географического о-ва. Вильна, 1910. Кн. 1 (у сааўт.); Город Гомель // Там жа. 1911. Кн. 2 (у сааўт.); З беларускага пісьменства XVII стал. І. Творы Цыпрыяна Камунякі: «Ліст да Абуховіча» і «Прамова Мялешкі» // Працы БДУ. 1927. № 16; Магілёўскае «брацтва прасалаў» // Гістарычна-археолёгічны зборнік. Мн., 1930. № 1; Сьвіслацкі замак у 1560 г. // Наш край. 1927. № 6—7; Сьвіслацкая воласьць у 1560 г. // Там жа. № 12; Стары Менск // Там жа. 1928. № 1—3; Места Сьвіслацкае ў 1560 г. // Там жа. № 6—7; Заслаўе на Меншчыне // Зап. аддзела гуманіт. навук Ін-та бел. культуры. Мн., 1928. Кн. 5; Polociae moenia: (Гістарычна-топографічны нарыс Полацкіх умацаваньняў) // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мн., 1928. Кн. 3; Барысаўскі замак // Там жа. 1930. Кн. 11; Аршанскі замак // Там жа; Цыганы на Беларусі: Гіст. нарыс // Спадчына. 1992. № 4; Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі // Там жа. 1997. № 4.

*Літ.*: Шумейко М.Ф. Архивист и археограф Дмитрий Иванович Довгялло. Мн., 2002 (змешчана бібліяграфія прац Д.).

***Міхась Шумейка.***

**Даўкантас** (Daukantas) Сіманас [17(28).10.1793, в. Кальвы каля Шкудаў, Жамойць—24.11(6.12).1864], літоўскі гісторык, пісьменнік-асветнік. З сялян. У 1816—22 вучыўся ў Віленскім ун-це, які скончыў са ступенню магістра; вучань І.Лялевеля, І.Даніловіча, І.Анацэвіча. У 1825—34 працаваў у Рызе, у 1835—50 у канцылярыі Сената ў Пецярбургу. Даследаваў дакументы Метрыкі ВКЛ і інш. архіваў. У 1850 вярнуўся ў Літву, да 1855 жыў у Варнях пры біскупе М.*Валанчусе*. У працы «Гісторыя старажытных літоўцаў і жамойтаў» (напісана ў 1822, надрукавана ў 1929) прасочана гісторыя Літвы да смерці Вітаўта (першая праца па гісторыі Літвы на літ. мове). У 1838 напісаў кнігу «Гісторыя Жамойці» (надрукавана ў 1893—97 пад назвай «Гісторыя Літвы»), дзе выклаў гісторыю Літвы да Люблінскай уніі 1569, якая паклала, на думку Д., канец самастойнаму дзярж. існаванню Літвы. У працы «Лад жыцця старажытных літоўцаў, вярхоўнікаў і жамойтаў» (надрукавана пад псеўданімам Якубас Лаўкіс у 1845) ахарактарызаваў матэрыяльныя і духоўныя ўмовы, сац. лад, характар стараж. літ. насельніцтва. Паказваў самабытнасць літ. народа, сцвярджаў яго права на самастойнасць. У сувязі з гэтым рамантычна ідэалізаваў паліт. лад перыяду станаўлення літ. дзяржаўнасці. Лічыў, што унія з Польшчай і хрышчэнне Літвы адмоўна адбіліся на нар. характары, прывялі да ператварэння вольных землярobаў у рабоў. Асуджаў уладу шляхты, яе паланізацыю, абыякавасць да нар. патрэб. Стылю Д. ўласцівы вобразнасць, метафарычнасць, белетрыстычныя ўстаўкі. Склаў зборнікі літ. фальклору (1846, 1932), слоўнікі. Аўтар падручнікаў, перакладаў, кніг па сельскай гаспадарцы.

*Тв.*: Darbay senuju Lituwiu yr Żemayciu. Kaunas, 1929; Lietuvos istorija. Vol. 1—2. Plymouth, 1893—97; Budą Senowęs-Lëtuwiû Kalnienû ir Żâmajtiû. St.Petersburg, 1845; Raštai. T. 1—2. Vilnius, 1976; Vertimai ir sekimai. Vilnius, 1984.

*Літ.*: Merkys V. Simonas Daukantas. 2 leid. Vilnius, 1991.

***Валерый Пазднякоў.***

**Даўкша** (Daukša) Мікалоюс (1527, каля Кейданаў—1613), дзеяч каталіцкай царквы ВКЛ, адзін з пачынальнікаў літоўскага пісьменства. Паходзіў са шляхты. Пісаў на т.зв. усходнім (жамойцкім) варыянце літоўскай мовы. Пасля вучобы ў Кракаўскім ун-це стаў святаром. У адказ на дзейнасць пратэстанта М.*Мажвідаса* пачаў выданне каталіцкіх кніг на літоўскай мове. Яго пераклад з польскай мовы «Катэхізіса» іспанскага езуіта Я.Лядэсмы (Вільня, 1595) стаў першай літоўскай кнігай, выдадзенай на тэр. ВКЛ. Акрамя кароткага выкладу хрысціянскага веравучэння змясціў у «Катэхізісе» асобныя звесткі з жыцця тагачасных літоўцаў (у т.л. пра захаванне літоўцамі язычніцкіх абрадаў). Гал. працай Д. стаў пераклад кнігі «Пасціла каталіцкая» польскага езуіта Я.Вуека (Вільня, 1599). Побач з лацінскім прысвячэннем жамойцкаму біскупу М.Гедройцу кніга мае 2 прадмовы, адна з якіх скіравана на абарону роднай мовы, якую Д. лічыў неабходнай умовай існавання нацыі і атаясамліваў з паняццем радзімы. Д. зрабіў прыкметны ўклад у станаўленне і развіццё літоўскай літаратурнай мовы і яе стылістыкі. Яго «Пасціла» — адна з асн. крыніц вывучэння гісторыі літоўскай мовы. У 19 ст. творы Д. перакладзены на рус. мову па спец. рашэнні Рас. АН.


CATHOLICKA
MIKALOIV DAVKSZ
JESU
SOCIETATIS
IESV. A.D. 1599.

М.**Даўкша**. Пасціла каталіцкая. Вільня, 1599. Тытульны ліст.

*Тв.*: Daukšos Postilė. Kaunas, 1926; Mikolajaus Daukšos 1595 metų katekizmas / Parengė V.Jakštienė, J.Palionis. Vilnius, 1995.

*Літ.*: Lebedys J. Mikalojus Daukša. Vilnius, 1963; Яго ж. Mikalojaus Daukšos bibliografija. Vilnius, 1971.

***Алесь Бразгуноў.***

**Даўмонт** (у праваслаўі Цімафей; ?—20.5.1299), князь нальшчанскі (да 1265), служылы князь пскоўскі (1266—99). Паводле Валынскага (Іпацьеўскага) летапісу, у бытнасць Д. нальшчанскім князем вял. князь Міндоўг адабраў у яго жонку. Пакрыўджаны Д. прыняў удзел у змове, якая прывяла да забойства Міндоўга (1263), прычым летапіс называе яго непасрэдным выканаўцам забойства. У 1265 сын Міндоўга Войшалк зрабіў паход на Літву і Нальшчаны. Каля 300 літоўцаў з жонкамі і дзецьмі ўцяклі ў Пскоў і прынялі хрышчэнне. Сярод іх быў і Д., які ў 1266 абраны пскавічамі сваім князем і ажаніўся з дачкой пераяслаўскага князя Дзмітрыя Аляксандравіча. З дапамогай пскоўскага апалчэння Д. у 1266 двойчы ажыццявіў набегі на Нальшчаны, дзе тады княжыў стаўленік Войшалка Гердзень, захапіў яго жонку і 2 сыноў, а самога Гердзеня перамог у бітве на р. Дзвіна. У 1267 Д. з дапамогай наўгародскіх добраахвотнікаў зрабіў яшчэ адзін набег на Літву, у пач. 1268 удзельнічаў у няўдалым паходзе кааліцыі князёў, арганізаванай Вял. Ноўгарадам, супраць Лівонскага ордэна пад Ракавор. Гэта прывяло ў 1269 да паходу ў адказ, але Пскоў быў абаронены з дапамогай наўгародскага князя. У 1271 і 1272 Д. зноў бараніў Пскоў ад лівонцаў. У1282 валодаў Капор'ем у Наўгародскай зямлі, адкуль зрабіў напад на Ладагу. Узімку 1298 узначальваў абарону Пскова ад чарговага нападу Лівонскага ордэна. Пасля смерці каналізаваны правасл. царквой.

*Літ.*: Псковские летописи. Вып. 1—2. М.; Л., 1941—55; Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. М.; Л., 1950; Охотникова В.И. Повесть о Довмонте: Исслед. и тексты. Л., 1985.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Даўмонт** (?—5.8.1285), мяркуемы вялікі князь літоўскі ў канцы 13 ст. Упамінаецца ў Троіцкім летапісе (і пазнейшых летапісах, якія на яго абапіраліся) як князь, што камандаваў буйным нападам літоўцаў на воласці Алешня і інш. цвярскога епіскапа Сімяона (ПдЗ Цвярскога княства) і загінуў там у бітве з аб'яднаным войскам з Цверы, Масквы, Волака Ламскага, Таржка, Дзмітрава, Зубцова і Ржэвы. Васкрасенскі летапіс сцвярджае, што Д. быў захоплены ў палон. Паходжанне Д. невядома. Гісторыкі мяркуюць, што Д. мог быць сынам і непасрэдным наступнікам вял. князя *Трайдзеня*. На думку Ю.Пузыны, літоўскія войскі былі запрошаны цвярскім князем Дзмітрыем Аляк-



сандравічам, каб перамагчы ва ўсобіцы свайго брата Андрэя (на баку апошняга выступілі Ноўгарад і Цвер). Гісторыкі С.Заянчкоўскі, У.Ц.Пашута і Э.Клюг не выключалі магчымасці, што гэта быў пскоўскі кн. *Даўмонт*, памылкова залічаны ў загінуўшыя летапісцам, тым больш, што Халмагорскі летапіс называе Д. зяцем Дзмітрыя Аляксандравіча (ім у сапраўднасці быў пскоўскі кн. Даўмонт). Наступнікам Д. ў ВКЛ быў, магчыма, *Бурдзікід*.

***Валерый Пазднякоў.***

**Даўмонты-Сясіцкія**, гл. *Сясіцкія*.

**Дашкевіч** (Дашкевич) Мікалай Паўлавіч [4(16).8.1852, в. Бяжоў Жытомірскага пав. Валынскай губ., Украіна—20.1(2.2).1908], рускі і украінскі гісторык і літаратуразнавец; прадстаўнік культурна-гістарычнай школы і параўнальна-гістарычнага метаду ў літаратуразнаўстве. Акад. Пецярбургскай АН (1907). Скончыў Кіеўскі ун-т (1873), пазней у ім прафесар. Даследаваў гісторыю Паўд. Расіі і ВКЛ. Удакладніў храналогію некат. падзей, асветленых у Галіцка-Валынскім летапісе, выказаў здагадку, што летапісная Літва межавалася па вярхоўі Нёмана. Аўтар прац пра рус. былінны эпас, творчасць рус., укр. пісьменнікаў.

*Тв.*: Княжение Даниила Галицкого по русским и иностранным известиям. Киев, 1873; Литовско-Русское государство, условия возникновения его и причины упадка // Университетские известия. Киев, 1882. № 3, 5, 8—10; 1883. № 4; Борьба культур и народностей в Литовско-Русском государстве в период династической унии Литвы с Польшею // Там жа. 1884. № 10, 12; Заметки по истории Литовско-Русского государства. Киев, 1885; Люблинская уния и ее последствия // Университетские известия. Киев, 1885. № 1.

***Мікола Ермаловіч.***

**Дашковіч** (Д а ш к е в і ч) Астафій Іванавіч (?—да 26.2.1536), ваенны дзеяч ВКЛ, адзін з арганізатараў казацкага войска на Украіне. Паходзіў з баяр паўд. Кіеўшчыны. У 1501 названы ў рас. летапісе ваяводам вял. князя Аляксандра (відаць, ужо тады быў намеснікам крычаўскім, на гэтай пасадзе ўпомнены і ў 1503). У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* войска на чале з Д. і князем М.І.Заслаўскім разбіта 4.11.1501 пад Мсціславам. У 1502—03 атрады Д. рабілі напады на маскоўскую тэрыторыю. Пасля заканчэння вайны з групай крычаўскай шляхты выехаў у Маскву, бо апасаўся смяротнага пакарання з-за паклёпу. У 1507 камандаваў конным корпусам, пасланым у ВКЛ на дапамогу мяцежнаму князю М.Л.Глінскаму. У 1508 вярнуўся ў ВКЛ, дзе яму вернуты маёнткі. Да 1510 прызначаны старастам канеўскім, а ў 1514 і чаркаскім. З гэтага часу вёў актыўную барацьбу са шматлікімі набегамі крымскіх татараў, найбуйнейшыя з якіх адбыліся ў 1518, 1527 і 1532. Для арганізацыі адпору татарам у падуладных яму гарадах уводзіў новыя падаткі, скасоўваў ільготы, падпарадкоўваў сваёй уладзе мяшчан і вольных людзей, гуртаваў вакол сябе казацтва. У час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* узімку 1514—15 разам з А.Неміровічам і татарамі зрабіў паход на Ноўгарад-Северскі, а ў 1521, у час татарскага паходу на Маскву, узяў у аблогу Разань. У 1516 удзельнічаў у паходзе П.Лянцкаронскага на турэцкую крэпасць Белгарад-Днястроўскі. У 1517 быў у складзе пасольства ў Крым. На Гарадзенскім сойме 1522 прапанаваў план рэформы абароны паўд. абласцей ВКЛ ад татараў, які прадугледжваў наём на дзярж. службу казакоў. У 1522 разам з А.Гарнастаем узначаліў пасольства ў Крым, быў там затрыманы, але здолеў уцячы. У 1523 узначаліў паход на татарскі замак у нізоўях Дняпра Іслам-Кермен. Удзельнічаў у пераможнай *бітве на Альшаніцы 1527*. У 1529 ажыццявіў паход у Крым для падтрымкі прэтэндэнта на ханскі трон Іслам-Гірэя. З 1532 дзяржаўца чачэрскі і крычаўскі. На Пётркаўскім сойме 1533 прапанаваў план засяліць казакамі дняпроўскія астравы і зрабіць там умацаванні для барацьбы з татарамі. План быў ухвалены, але не рэалізаваны. У час *вайны Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржай 1534—37* удзельнічаў ва ўзяцці Старадуба.

*Літ.*: Б у ч и н с ь к и й Б. Початки політичної карієри Остафія Дашковича // Записки Наукового товариства імени Шевченка. 1913. Кн. 1; Ч е р к а с Б.В. Остафій Дашкович — черкаський і канівський староста XVI ст. // Український історичний журнал. 2002. № 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**Дважачак** (Dworzaczek) Уладзіслаў (15.10.1906, Мінск—23.9.1988), польскі гісторык, генеалог. Д-р (1932), праф. звычайны (1968). Скончыў Пазнанскі ун-т. У 1928 атрымаў у спадчыну ад А.Рэйскага вялізныя генеалагічныя матэрыялы А.*Банецкага* для няскончанага «Польскага гербоўніка» і заняўся генеалагічнымі даследаваннямі шляхты Польшчы і ВКЛ. Склаў 17-ы том гербоўніка (рукапіс і ўсе матэрыялы загінулі ў Варшаве ў 1944). З 1945 выкладаў у Пазнанскім ун-це, у 1958—73 кіраўнік цэнтра гісторыі польскай культуры філалагічнага аддзялення. Даследаваў сац. адносіны ў Рэчы Паспалітай. Выдаў абагульняльную працу «Генеалогія» («Genealogia», Варшава, 1959), забяспечаную 182 генеалагічнымі табліцамі найб. значных родаў Рэчы Паспалітай.

*Тв.*: Dobrowolne poddaństwo chłopów. Warszawa, 1952; Leliwici Tarnowscy: Z dziejów możnowładztwa małopolskiego, wiek XIV—XV. Warszawa, 1971; Hetman Jan Tarnowski. Warszawa, 1985.

*Літ.*: W y s o c k a B. Włodzimierz Dworzaczek // Wybitni historycy wielkopolscy. Poznań, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**дваранін**, у ВКЛ і Рэчы Паспалітай шляхціц, які служыў пры двары вял. князя ці караля (Д. гаспадарскі, Д. Яго Каралеўскай Мосці). Зрэдку гэта пасада сустракалася і пры дварах буйных магнатаў. Вядомы з 15 ст., часта нёс службу як упаўнаважаны дзеля вырашэння пэўных праблем, выконваў функцыі дыпламатычнага прадстаўніка, праводзіў рэвізіі і вырашаў канфлікты ў дзярж. і велікакняжацкіх маёнтках і інш. З развіццём сістэмы ўрадаў страціў свае функцыі.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Дварнічэнка** (Дворниченко) Андрэй Юр'евіч (н. 5.6.1957, г. Стаўрапаль, Расія), расійскі гісторык. Д-р. гіст. навук (1993), праф. (1995). Ганаровы работнік вышэйшай прафесійнай адукацыі (2003). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1980), дзе і выкладае: з 1982 асістэнт, з 1987 дацэнт, з 1995 праф. кафедры гісторыі СССР (дасавецкі перыяд), з 1997 заг. кафедры гісторыі для выкладання на прыродазнаўчанавуковых і гуманітарных факультэтах, з 2002 заг. кафедры гісторыі славянскіх і балканскіх краін, з 2003 заг. кафедры гісторыі Расіі са старажытных часоў да 20 ст., адначасова з 2001 дэкан гіст. факультэта. Даследуе гісторыю Расіі 9—16 ст., гістарыяграфію гісторыі Расіі, сац.-паліт. гісторыю ВКЛ да 16 ст.

*Тв.*: О предпосылках введения магдебургского права в городах западнорусских земель в XIV—XV вв. // Вестник ЛГУ. Сер. 2. 1982. Вып. 1; Поднепровские и Подвинские волости Великого княжества Литовского в XV—XVI вв. // Там жа. 1983. Вып.



2; Русские дореволюционные историки о городском строе Великого княжества Литовского // Проблемы отечественной и всеобщей истории. Л., 1983. Вып. 7; Князь Свидригайло и западнорусские городские общины // Там жа. 1988. Вып. 11; Города-государства Древней Руси. Л., 1988 (з І.Я.Фраянавым); Русские земли Великого княжества Литовского (до начала XVI в.): Очерки истории общины, сословий, государственности. СПб., 1993; Владимир Васильевич Мавродин: Страницы жизни и творчества. СПб., 2001; Кафедра русской истории в Санкт-Петербургском университете (1834—2004). СПб., 2004 (з В.С.Брачавым).

**дварышча**, гаспадарчая адзінка і аб'ект абкладання сялян феадальнымі павіннасцямі на ПдЗ Беларусі ў 14—16 ст. (у асноўным у Пінскім пав.). Фактычна з'яўляліся мясц. адпаведнікам пашыранай на астатняй тэр. Беларусі павіннаснай адзінкі і аб'екта землекарыстання — *службы*. Відаць, першапачатковыя Д. мелі прыблізна аднолькавую колькасць зямлі, на якой размяшчалася адна сял. гаспадарка — *дым*, таму і сталі аднастайнай, хоць і мясц. адзінкай абкладання. З цягам часу ў Д. павялічвалася колькасць насельніцтва і зямлі, якую яно апрацоўвала. У сярэдзіне 16 ст. ў час правядзення *валочнай памеры* Д. на Піншчыне былі захаваны, толькі зямля вымяралася *валокамі* або іх састаўляючымі — *маргамі* і *прутамі*, павіннасці і платы прызначаліся з колькасці вымеранай зямлі (у сярэднім па 2 грошы з морга). У выпадках, калі новыя павіннасці аказваліся меншымі за ранейшыя, усё роўна збіралася раней вызначаная агульная плата ці павіннасці з усяго Д. У 16 ст. Д. не былі аднолькавымі ні па колькасці дымоў, што ў іх ўваходзілі, ні па колькасці зямлі, якую апрацоўвалі сяляне, у сярэднім у Д. ўваходзілі 2—4 дымы, кожны з якіх меў каля 1 валокі зямлі. Гаспадары асобных дымоў, што жылі ў Д., часта былі родзічамі, хоць траплялiся і чужыя людзі — *патужнікі*. Тэр. Д. была акрэслена пэўнымі межамі, звычайна мела сваю назву, якая не мянялася з прыходам новага гаспадара. Акрамя ворнай зямлі ў склад Д. ўваходзілі сенажаці, выганы, бортныя і лясныя ўгоддзі, якімі члены Д. карысталіся супольна. Кожнае Д. мела *сядзібу* (ці некалькі), дзе сяляне «сядзелі дварамі сваімі». У сядзібу ўваходзілі жылыя будынкі, гасп. пабудовы і прысядзібныя агароды.

***Валянцін Голубеў.***

**двор**, 1) у ВКЛ у 13—18 ст. адна з назваў сялянскай гаспадаркі як аб'екта і адзінкі абкладання павіннасцямі і падаткамі, адпаведнік больш пашыранаму тэрміну *дым*. У гэтым сэнсе Д. — гаспадарка звычайна асобнай сям'і, у якую ўваходзілі ворныя землі, сенажаці, некаторыя інш. ўгоддзі, гасп. і жылыя пабудовы. 2) Месца, дзе размяшчаліся жылыя і гасп. будынкі асобнай сялянскай сям'і (дыма), тое, што сядзіба. 3) Да сярэдзіны 16 ст. назва ўласнай гаспадаркі феадала з комплексам жылых і гасп. будынкаў, ворнымі землямі і інш. ўгоддзямі. Гал. прызначэннем такіх Д. была вытворчасць с.-г. прадукцыі, якая ішла на ўтрыманне феад. адміністрацыі і задавальненне ўласных патрэб феадала. Былі пашыраны гаспадарскія (велікакняжацкія) Д. — адм. ці адм.-гасп. цэнтры валасцей або асобных уладанняў вял. князя. Гал. павіннасцю сялян у іх была *паншчына* (служба цяглая). З пачаткам ажыццяўлення *валочнай памеры* паняцце Д. заменена тэрмінам *фальварак*. 4) Цэнтральная сядзіба феад. гаспадаркі. Паводле інвентарных вопісаў, панскі Д. быў у кожным маёнтку або фальварку. У Д. жыў сам уласнік ці размяшчалася адміністрацыя, ён быў месцам збору сял. падаткаў і інш. Да сярэдзіны 16 ст. на панскім Д. працавала *чэлядзь нявольная* (дворная), пасля валочнай памеры — *агароднікі* і інш.

***Валянцін Голубеў.***

**Дзевалтоўскія**, Г і н т а ў т ы - Д з е в а л т о ў с к і я, шляхецкі род герба «Трубы». У 1524 дазвол на куплю зямлі ў Дзяволтве і Савідзянах атрымаў Барталамей Гінтаўтавіч. Яго сына, Станіслава Барталамеевіча Гінтаўтавіча, у 1548 усынавілі Павел і Зоф'я Жаляпугі і запісалі яму маёнтак. Відаць, род Дз. пайшоў ад Станіслава Гінтаўтавіча. Жылі таксама на Падляшшы і на Падоллі, у Холмскай зямлі і ў Галіцыі.

Найб. вядомыя: П а в е л, стольнік навагародскі (1593); В о й ц е х, падкаморы ковенскі (1576), дваранін і сакратар гаспадарскі; Я н (?—1612), войскі гарадзенскі (1599); Я н, харужы ковенскі (1607); Е ж ы, харужы троцкі, пасол на элекцыйны сойм, падпісаў абранне каралём польскім і вял. князем літоўскім Міхала Вішнявецкага (1669); К а з і м і р М і к а л а й, падчашы ашмянскі (1669); С а м у э л ь, мечнік вількамірскі, пасол на элекцыйны сойм, падпісаў абранне каралём польскім і вял. князем літоўскім Яна Сабескага (1647); Я ў х і м, шамбялян караля польскага і вял. князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1779), сакратар Адукацыйнай камісіі (1784), кавалер ордэна св. Станіслава (1789); Я н, шамбялян Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1779).

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Дземітровіч** (Д ы м і т р о в і ч) Павел (?—1641), пісьменнік і педагог. Паходзіў з дробнай шляхты ВКЛ. Вучыўся ў Віленскай кальвіністцкай гімназіі. Разам са сваім выхаванцам Ш.Пшылубскім наведаў ун-ты ў Франкфурце-на-Одэры (1611), Лейпцыгу, Гайдэльбергу, Інгальштаце (1612); вывучаў філасофію ва ун-це Альтдорфа (1613). Пасля вяртання з-за мяжы памочнік рэктара (1615), кіраўнік вышэйшых класаў (1616), рэктар Віленскай кальвіністцкай гімназіі. У 1627 пасяліўся ў Слуцку ў якасці выхавацеля Я.Радзівіла, пасля яго ад'езду за мяжу навучаў у Дзяляцічах Б.Радзівіла. Разам з Д.*Набароўскім* і С.*Рысінскім* належаў да кола літаратараў пры двары гетмана К.Радзівіла. Пазней быў пастарам у Дубінках. У 1641 куратар Слуцкай кальвіністцкай гімназіі. Ад імя Віленскай гімназіі друкаваў выданні, прысвечаныя падзеям з жыцця вядомых асоб; пісаў для іх прадмовы, у якіх шмат біягр. і генеалагічнага матэрыялу: «Эпіталама на акт вяселля Яна Галоўчынскага і Алены Валовіч» (з разважаннямі Дз. пра род Валовічаў), «Памятка жыцця і смерці Адама Храпавіцкага, суддзі Троцкай зямлі», «Памятка жыцця і смерці князя Міхала Цыпрыяна Масальскага» (з разважаннямі Дз. пра роды Масальскіх і Календаў; усе 1622) і інш. Аўтар тэалагічных артыкулаў. Асн. яго праца «Кампендыум, або Кароткае апісанне як князёў і каралёў польскіх, так і спраў, выпадкаў і даўнейшай гісторыі Каралеўства Польскага...» (Любча, 1625) напісана ў жанры гіст. чытанкі і мела на мэце папулярызацыю гіст. ведаў у шырокіх колах. У яе аснове запазычанні пераважна з «Хронікі» М.Кромера, а таксама з твораў М.Бельскага, А.Гваньіні і М.Стрыйкоўскага.

***Наталля Мазоўка.***

**Дзераўноўскі касцёл**, помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу. Засн. ў 1590 М.К.Радзівілам Сіроткам і яго жонкай Э.Я.Вішнявецкай у мяст. Дзераўная (цяпер вёска ў Стаўбцоўскім р-не Мінскай вобл.) пад назвай Звеставання Дзевы Марыі. Пабудаваны ў 1-й пал. 17 ст. (паводле



інш. звестак, у канцы 16 ст.), у 2-й пал. 17 ст. прыбудавана цагляная вежа. Рэстаўрыраваўся ў пач. 18 ст., у канцы 18 ст. вежа падвышана. Мураваны 1-нефавы 1-вежавы храм з 5-граннай апсідай накрыты высокім 2-схільным дахам. Да апсіды з бакоў прымыкаюць прамавугольныя сакрыстыі. 3-ярусная вежа на гал. фасадзе (ніжнія ярусы чацверыковыя, верхні — 8-гранны) накрыты высокім шатром. Сцены ўмацаваны рытмічна размешчанымі вертыкальнымі контрфорсамі. Вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Асн. памяшканне злучана з апсідай арачным праёмам.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**дзесятнік,** д з е с я ц к і, пасада ў ВКЛ. 1) Сельскі ўраднік, які кіраваў дробнай адм.-тэр. адзінкай — дзесяткам, што аб'ядноўваў некалькі вёсак. Прызначаўся ўладамі, сачыў за выкананнем сял. павіннасцей, падтрымліваў парадак. З правядзеннем у 16 ст. валочнай памеры Дз. замяняліся *войтамі*. 2) Гарадскі ўраднік, які ўзначальваў пэўную частку горада. 3) Камандзір дробнага падраздзялення ў дапаможных войсках ВКЛ.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Очерки по организации западно-русского крестьянства в XVI в. Киев, 1905.

***Валерый Пазднякоў.***

**дзесяціна** ц а р к о ў н а я, прынашэнне царкве дзесятай часткі даходаў. Прызначалася для ўтрымання мясцовага храма і свяшчэнніка, але пераважна ішла на карысць вышэйшага духавенства, была спосабам феад. эксплуатацыі сялянства. У ВКЛ у 15—16 ст. была Дз. «снаповая» (сяляне аддавалі кожны 10-ы сноп) і агульная ($^{1}/_{10}$ частка збожжа, мёду і інш.).

**дзецкі,** у ВКЛ у 15—17 ст. ніжэйшы ўраднік у сістэме адміністрацыйнага кіравання, судовы выканаўца. Існавалі Дз. вял. князя, ваявод, намеснікаў, цівуноў. Уводзіў ва ўладанне маёнткам, дастаўляў абвінавачанага ў суд, арыштоўваў яго, ажыццяўляў судовае спагнанне. Плата, якую атрымліваў Дз., называлася дзецкаванне. З сярэдзіны 16 ст. функцыі Дз. ў судах выконваў *возны*.

***Валерый Пазднякоў.***

**дзённік,** гл. *Дыярыуш*.

**Дзікае поле,** П о л е, гістарычная назва незаселеных тэрыторый, якія прымыкалі з Пд да рускіх «украйных» зямель. Займала тэр. сучаснага Цэнтр. Чарназем'я і частку сучаснай Украіны (басейны рэк Северскі Данец, Ворскла і інш.), а таксама землі Ніжняга Прыдоння, Сярэдняга і Ніжняга Паволжа. Тэр. Дз.п. ахоплівала акрамя дзікага стэпу вял. частку асвоеных зямель, якія ўваходзілі ў склад Курскага, Ялецкага і часткова Разанскага княстваў. Да канца 14 ст. першыя 2 княствы спынілі сваё існаванне, а іх цэнтры, як і інш. навакольныя гарады, ператварыліся ў гарадзішчы. У 15—16 ст. тэр. Дз.п. ўмоўна падзелена паміж ВКЛ (потым Рэччу Паспалітай) і Рас. дзяржавай. Але гэты падзел не прызнаваўся нашчадкамі Залатой Арды (Вялікай Ардой, Крымскім ханствам), а Дз.п. выкарыстоўвалася імі эпізадычна як качэўі (напр., у 1490, 1491, 1501). Рэальнай улады над тэр. Дз.п. не мелі ні маскоўскі, ні літоўскі бок. Паводле дагавора 1503 вял. частка Дз.п. намінальна трапіла ў склад Рас. дзяржавы. Паступова яго памеры скарачаліся. Калі ў 1-й пал. 16 ст. Дз.п. пачыналася адразу за Тулай, то ў сярэдзіне таго ж стагоддзя яно адсунулася да адноўленых гарадоў Арла, Данкава, Шацка і інш. З 1571 «на Полі» пачала няспынна дзейнічаць агульнадзярж. рас. вартавая служба, арганізатарам якой быў баярын М.І.Варатынскі. Неўзабаве полем сталі называць тэрыторыю, на якой стаяла рас. ахова і дзейнічалі раз'езды. Да канца 16 ст. пабудаваны ці адноўлены шэраг гарадоў (Варонеж, Ліўны, Курск, Белгарад, Ялец і інш.), а сама тэр. Дз.п. стала часткай рас. зямель. У нізоўях Дона пачало канцэнтравацца аўтаномнае данское казацтва. Такім чынам, у канцы 16 ст. тэрмін «Поле» страціў першапачатковы сэнс, але працягваў ужывацца для абазначэння пэўнага геаграфічнага рэгіёна.

*Літ.*: Загоровский В.П. История вхождения Центрального Черноземья в состав Российского государства в XVI веке. Воронеж, 1991.

***Віктар Цемушаў.***

**Дзісенскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. Размяшчаўся на востраве «Замак» каля сутокаў рэк Дзісна і Дзвіна. Узнік у 14 ст. на месцы стараж. паселішча 11 ст. У хроніках Лівонскага ордэна зафіксаваны каля 1374 і 1377 пад назвай «Новы замак рускіх», адзначаны замкавы мост, які звязваў замак з берагам. Займаў плошчу каля 5 га. Першапачаткова вал замка насыпаны з пяску і ўмацаваны з боку Дзвіны пластом вязкай гліны (засцерагаў вал ад размывання дажджавымі і веснавымі паводкамі), яго аснова вымашчана дубовымі плахамі. Вышыня вала пасля некалькіх падсыпак дасягнула 5 м. На яго вяршыні спачатку стаяў дубовы частакол, пазней заменены гароднямі. Замак меў зручныя «крэпасці самародныя»: шырыня Дзвіны, якая абмывала яго з Пн, дасягала 100 м; шырыня Дзісны, што працякае з Пд, — 80—90 м. Пляцоўка вострава ўзвышалася над узроўнем вады на 10—12 м, а з улікам вышыні вала і абаронча сцен магутнасць замка значна павялічвалася. У 16—17 ст. замкавы вал меў вышыню 10 м і шырыню ў аснове каля 19 м. На подступах да замка па вадзе шлях перагароджвалі «Нікольскія дарогі». У 14—пач. 15 ст. Дз.з. выконваў ролю фарпоста Полацка на Дзвіне, які кантраляваў увесь рух па рацэ і подступы да сталіцы Полацкай зямлі. Пасля Грунвальдскай бітвы 1410 і паражэння крыжакоў замак страціў ранейшае стратэг. значэнне. У дакументах за 1414, 1461, 1500 і 1552 звесткі пра замак адсутнічаюць. Відаць, ён прыйшоў у заняпад. Пазнейшыя звесткі пра дзісенскія ўмацаванні адносяцца да пач. *Інфлянцкай вайны 1558—82* і падзення ў 1563 Полацка. У процівагу Полацку, занятаму войскам Івана IV Грознага, Дз.з. быў адноўлены. Усімі ваен.-фартыфікацыйнымі работамі кіравалі «рыцер и военник добрый», дзяржаўца крычаўскі і дзісенскі Баркулаб Іванавіч Корсак і пан Раман Хадкевіч. Прылеглыя да замка землі належалі полацкаму ўладыку і называліся Парогі. Кароль Жыгімонт II Аўгуст высока цаніў стратэг. значэнне адноўленага Дз.з., адзначаў, што «замок наш Дисненский есть особливою обороною от неприятеля нашего, князя великого Московского, тому панству нашому Великому княжеству Литовскому». У 1566 ён загадаў Корсаку «при замку нашом Дисеньском место осаживать» і абвясціць на 8 гадоў розныя льготы і «слабоды». У 1579 Дз.з. стаў цэнтрам збору войск Стафана Баторыя перад паходам на Полацк. Гісторык А.*Гваньіні* адзначаў, што тут «вялікі замак, абведзены непрыступным і моцным валам, прыстасаваны да абароны гарматамі і рознай амуніцыяй». Пасля вайны замак паступова прыйшоў у заняпад, што прывяло да здачы яго 25.7.1654 войску рас. ваяводаў В.П.Шарамецева і С.Стрэшнева. З удзелам мясц. жыхароў умацаванні замка былі хутка адноўлены. Па-



водле дакументаў за 1655, ён меў 14 вежаў, у т.л. 2 Дзвінскія і Дзісенскую брамы, 2 «форткі» да р. Дзісна. Попіс замка называе вежы: «новая ля крыжа над Дзвіною, новая ля старога мніскага касцёла, старая Пытачная, вежа Пясочная, Новая Свенская, Старая Крывая, новая Вуглавая, новая ля Тапучага ручая, Плоская, Мосарская». Яны былі прамавугольныя ў плане, амаль усе памерамі 8,5 × 8,5 м, 2-ярусныя, вышынёй каля 9 м, накрытыя драніцамі. З боку «поля» вежы рубіліся ў 2 бервяны, на інш. участках — у адно. Абарончыя сцены былі 2 тыпаў — стаячы астрог і рубленыя тарасы, засыпаныя ўнутры зямлёй, з верхнім «боем» і бярвёнамі-«каткамі», якія скідвалі са сцен на штурмуючага праціўніка. На сценах стаяла каля 40 гармат розных калібраў. У сувязі з вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і разбурэннямі горада жыхары зноў перасяліліся на востраў, дзе абнеслі сваё паселішча драўлянымі ўмацаваннямі. Так утварыўся Ніжні замак, вядомы па шэрагу тагачасных крыніц, а ўмацаванні больш ранняга перыяду сталі называцца Верхнім замкам. 10.4.1660 шляхта, казакі, дзісенскія мяшчане і павятовыя мужыкі, якія сядзелі ў аблозе ў Дз.з., зрабілі пераварот, звязалі рас. гарнізон і адчынілі браму перад войскамі С.Юдзіцкага. Бурмістра, які ў 1654 здаў горад рас. войску, змоўшчыкі павесілі ў замкавай браме. Да канца вайны ў Дз.з. размяшчаўся значны гарнізон, меліся 27 бронзавых і жалезных гармат, 41 гакаўніца, 4 драбавікі-«шротаўніцы», ядры, гранаты, карцечныя зарады, сера, порах, свінец і інш. Знішчэнне Дз.з. прыпадае на *Паўночную вайну 1700—21*. Зброя з замкавага цэйхгауза пастутпова была вывезена гетманам М.К.Пацам і панамі з навакольных маёнткаў, 2 гарматы забралі ксяндзы Даўгінаўскага касцёла. У 1770-я г. маёр кароннага войска Ф.Навіцкі зрабіў тапагр. здымку Дз.з. і запісаў, што «цяпер вада і лёд зусім знеслі многія валы, вышэй за якія ў горадзе не было ніводнага месца, рэшткі валоў і замчышча зараслі лазою і ў паводку заліваюцца вадой». Апрача гэтага, схілы валоў араліся, ад чаго насып адплываў. Захаваліся рэшткі валоў Ніжняга замка.

*Літ.*: Гейденштейн Р. Записки о Московской войне (1578—1582 г.). СПб., 1889. С. 51; Сапунов А.П. Река Западная Двина. Витебск, 1893. С. 445; Полоцкая ревизия 1552 г. Юрьев, 1905. С. 82, 90, 98; Герберштейн С. Записки о московитских делах. СПб., 1908. С. 223; Hedemann O. Dzisna i Druja, magdeburgskie miasta. Wilno, 1934. S. 15, 18, 74.

***Міхась Ткачоў.***

**Дзісна** (цяпер горад у Міёрскім р-не Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Полацкім ваяв., на р. Дзісна пры яе ўпадзенні ў Зах. Дзвіну. Першапачатковае паселішча стараж. Дз. размяшчалася на мысе правага берага р. Дзісна. З 13 ст. паступова заселены левы бераг Дзісны. З 1301 Дз. ў ВКЛ. З 14 ст. ўпамінаецца *Дзісенскі замак*. Паводле пісцовай кнігі 1563, Дз. — сяло з 7 двароў на левым беразе Дзісны, насупраць яго — дзярж. ўладанне Капец-гарадок. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* пасля ўзяцця Полацка рас. войскамі Дз. прыняла яго абаронцаў. У 1567 атрымала герб з выявай 3 мураваных вежаў. У 1569, калі Жыгімонт II Аўгуст у Любліне падпісаў прывілей на наданне Дз. магдэбургскага права і новага герба (ладдзя ў блакітным полі), стала горадам. На той час у Дз. склаліся 2 цэнтры: адзін (правы бераг Дзісны, уладальніцкая рэзідэнцыя) у замку на востраве меў гандлёвую плошчу, жылыя дамы, арсенал, сажалку паміж валоў; другі (на левым беразе ракі, адм. цэнтр) — ратушу, гандлёва-рамесніцкі цэнтр, праваслаўныя Васкрасенскую (16 ст.), Узвіжанскую і уніяцкую Міхайлаўскую цэрквы, правасл. брацтва. У 1581 пабудаваны парафіяльны касцёл, у 1630 — драўляны францысканскі кляштар (з 1733 мураваны). У 1649 Дз. вынішчана пажарам. Каля 1669 пабудавана Спаса-Праабражэнская царква. У 17 ст. цэнтр старасгва, у 1632 было 9 цэхаў (кавальскі, мулярскі, слясарны, ткацкі, ганчарны, гарбарны, рымарскі, шавецкі і сталярны), працавалі таксама шкляры, ювеліры, друкары, васкабойнікі, музыканты. У горадзе былі склады іншагародніх купцоў, з 2-й пал. 17 ст. — мытная камора. Штогод праводзіліся 3 кірмашы. Цяжкія страты панесла Дз. ў часы *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* і *Паўночнай вайны 1700—21*, эпідэміі чумы ў 1710. 15.7.1700 Дз. поўнасцю згарэла, у 1720 пажар паўтарыўся. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т.1. СПб., 1863; З-н В. Очерк прошлого г. Дисны // Виленский вестник. 1893. № 71; Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896; Połocki R. Z dziejów starostwa dziśnieńskiego // Litwa i Ruś. 1913. № 10—12; Hedemann O. Dzisna i Druja, magdeburgskie miasta. Wilno, 1934.

***Язэп Бунто.***

**Дзмітрачкоў** Пётр Фролавіч (н. 7.6.1937, в. Бярозкі Хоцімскага р-на), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1973), праф. (2003), чл.-кар. Бел. акадэміі адукацыі (1999). Засл. работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь (1998). Скончыў Магілёўскі пед. ін-т (1965), дзе і працуе (з 1997 Магілёўскі ун-т), з 1975 дэкан гіст. факультэта. Даследуе праблемы ўзнікнення і развіцця дзяржаўнасці на Беларусі, этнагенезу беларусаў, гісторыі ВКЛ. Аўтар вучэбных дапаможнікаў «Аб паходжанні беларусаў, фарміраванні і развіцці беларускай народнасці» (1992), «Старажытная гісторыя Беларусі» (1999), «Беларусь у другой палове XVII—XVIII стст.» (2000, з В.Л.Маразевічам), «Беларусь у складзе Вялікага княства Літоўскага: (другая палова XIII—першая палова XVII стст.)» (2003).

*Тв.*: Беларусь у IX—першай палове XIII стст. Магілёў, 1994; Образование Великого княжества Литовского: (дискуссионные аспекты) // Весн. Магілёўскага ун-та. 1999. № 1; О зарождении и развитии государственности на белорусских землях // Бел. думка. 2001. № 4.

**Дзмітрый Альгердавіч** (?—12.8.1399), князь друцкі, бранскі і трубчэўскі. 2-і сын вял. князя *Альгерда* і віцебскай князёўны Марыі Яраслаўны. Відаць, першапачаткова атрымаў ва ўдзел Друцкае княства. Каля 1363, пасля паходу Альгерда на Бранскае княства, быў пасаджаны бацькам княжыць у Бранску. Пазней, у выніку пераразмеркавання княжанняў, Дз.А. перайшоў у Трубчэўск. У 1372 у складзе войска, пасланага Альгердам на дапамогу цвярскому князю Міхаілу Аляксандравічу супраць Масквы. Магчыма, у 1374 з князем Андрэем Альгердавічам хадзіў на г. Дынабург. У час зімовага паходу 1379—80 вял. князя маскоўскага Дзмітрыя Іванавіча на Трубчэўск і Старадуб Дз.А. перайшоў да яго на службу. Атрымаў у Маскоўскай дзяржаве г. Пераяслаў-Залескі. У 1388 у Маладзечне падпісаў акт, дзе выказаў жаданне пакінуць маскоўскую службу і прынесці прысягу Ягайлу, Ядвізе і польскай кароне. Магчыма, Дз.А. была абяцана дапамога ў здабычы пскоўскага трона. Відаць, у ВКЛ Дз.А. вярнуўся ў

1389 (пасля смерці Дзмітрыя Іванавіча) і атрымаў Друцк або яго частку. Як князь бранскі ўдзельнічаў у *бітве на Ворскле 1399* з татарамі, дзе і загінуў. Няпэўнасць звестак пра Дз.А. ўскладняе пытанне пра яго нашчадкаў. Паводле найб. разгорнутай схемы, быў жанаты з Ганнай, сястрой разанскага князя Алега Іванавіча, і меў сыноў Івана, Міхаіла (родапачынальніка *Трубяцкіх*), Сямёна, Рамана, Глеба, Дзмітрыя, Льва, Алехну, Андрэя, дачок Ганну (Еўпраксію, 1-я жонка вял. князя Вітаўта), Агрыпіну (жонка князя Івана Гальшанскага), Ульяну (жонка Манівіда), Аляксандру (жонка князя Андрэя Гальшанскага-Вязынскага).

*Літ.*: Русина Е.В. Персональный состав северских князей во второй половине XIV в. // Историческая генеалогия. Екатеринбург; Париж, 1993. Вып. 2; Варонін В. Друцкія князі XIV стагоддзя // Бел. гіст. агляд. 2002. Сш. 1—2.

***Валерый Пазднякоў.***

**Дзмітрый Растоўскі** [свецкае Туптала Даніла Савіч; 11(21).12.1651, с. Макарава Жытомірскага пав.—28.10(8.11).1709], дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай і Расіі, пісьменнік. З казацкай сям'і шляхецкага паходжання, якая з 1660 жыла ў Кіеве. Вучыўся ў Кіева-Магілянскай акадэміі. У 1668 прыняў манаства, у 1675—77 іераманах Густынскага манастыра. Прыхільнік гетмана П.Д.Дарашэнкі і мітрапаліта Іосіфа Нелюбовіча-Тукальскага, выступаў за незалежнасць правасл. царквы Рэчы Паспалітай ад маскоўскага патрыярхату. Набыў вядомасць як прапаведнік. У 1677—79 жыў у ВКЛ, быў прапаведнікам у Вільні і Слуцку, наведаў Навадворскі, Грозаўскі, Старчыцкі манастыры, вёў барацьбу з уніятамі. Быў ігуменам Максакаўскага, Батурынскага, Глухаўскага, Кіеўскага Кірылаўскага, архімандрытам Ялецкага і Ноўгарад-Северскага манастыроў. З 1701 мітрапаліт сібірскі, з 1702 растоўскі і яраслаўскі. Аўтар шматлікіх літ. твораў, з якіх найб. вядомасць набылі Чэцці-Мінеі — збор жыццій святых (ч. 1—4, 1689—1705). У 1702 у Магілёве перавыдадзена 1-я частка Чэцціх-Мінеі (жыціі святых за вер.—ліст.). Творчасць Дз.Р. мела вял. значэнне для праваслаўных усх. і паўд.-слав. зямель. У 1757 абвешчаны святым.




**Дзмітрый Растоўскі.**
Кніга жыццій святых (Чэцці-Мінеі).
Магілёў, 1702. Тытульны ліст.
Гравёр В.Вашчанка.

*Літ.*: Котович С.И. Дмитрий Ростовский в Западной Руси // Литовские епархиальные ведомости. Часть неофициальная. 1871. № 19; Шляпкин И.А. Св. Дмитрий Ростовский и его время. СПб., 1891; Филевские чтения. Вып. 9. Святой Димитрий, митрополит Ростовский: Исследования и материалы. М., 1994; Федотова М.А. Эпистолярное наследие Димитрия Ростовского // Труды Отдела древнерусской литературы. СПб., 2003. Т. 54.

***Валерый Пазднякоў.***

**Дзягілевіч** Уладзіслаў (31.10.1675, Беларусь—13.1.1714), архітэктар. Прадстаўнік архітэктуры барока. 10.7.1691 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. Вучыўся ў Полацкім езуіцкім калегіуме (1695—98), езуіцкім паслушніцкім доме ў Вільні (1701—04). Працаваў у Оршы (1704—05 і 1707—09), Нясвіжы (1705—06), Мсціславе (1706—07) і Жодзішках. У 1710—14 суперыёр, архітэктар і прэфект будоўлі ў Мсціславе. У 1707 тут паводле яго праекта пабудаваны драўляны езуіцкі касцёл, у 1711 — званіца і гасп. пабудовы, адбудаваны спалены місіянерскі дом. Памёр у Мсціславе.

**Дзядулевіч** (Dziadulewicz) Станіслаў (7.4.1872, г. Варшава—4.2.1943), польскі гісторык, генеалог. Скончыў юрыд. факультэт Варшаўскага ун-та. Выкладаў у сярэдніх навуч. установах у Варшаве. З 1897 публікаваў артыкулы па геральдыцы і генеалогіі ў «Вялікай універсальнай ілюстраванай энцыклапедыі». Шмат артыкулаў па геральдыцы Польшчы і ВКЛ змясціў у час. «Miesięcznik heraldyczny» («Геральдычны штомесячнік»), публікаваўся ў час. «Tygodnik ilustrowany» («Ілюстраваны штотыднёвік»), «Bluszcz» («Блюшч»), «Kurier warszawski» («Варшаўскі кур'ер»). Распрацоўваў генеалогію і геральдыку татарскіх родаў ВКЛ (лічыў і свой род татарскага паходжання), удзельнічаў у адраджэнскім татарскім руху. Гал. праца Д. — генеалагічны даведнік «Гербоўнік татарскіх сем'яў у Польшчы» («Herbarz rodzin tatarskich w Polsce», Вільня, 1929), дзе дадзены звесткі пра татарскія мусульманскія роды (гал.ч. з ВКЛ) і шляхецкія роды хрысціянскага веравызнання, якія выводзілі сябе з татараў. Праца заснавана на багатым дакументальным матэрыяле з архіваў Вільні, Варшавы, Масквы і Пецярбурга, аднак змяшчае і шмат легендарнага і некрытычна апрацаванага матэрыялу.

***Валерый Пазднякоў.***

**дзякла**, дзякло, прадуктовая рэнта (натуральны аброк) за зямельны надзел, якая збіралася на карысць землеўладальніка з сялян ВКЛ. Дз. здавалі збожжам (пераважна жытам і аўсом, радзей ячменем і пшаніцай), інш. с.-г. прадуктамі або грашыма (па жаданні ўладальніка). У прадуктовую рэнту ўваходзілі свойская птушка або жывёла, яйкі, мёд, арэхі, грыбы, ягады, сена, лён, пянька і інш. Да *валочнай памеры* адзінкай абкладання былі *дварышча* і *служба*, пазней — *валока* і *дым*. Памер Дз. быў неаднолькавы ў розных уладаннях і вызначаўся землеўладальнікам з улікам эканам. становішча сялян. Найб. пашыранае Дз. збожжавае — па 1, а то і па 2 бочкі жыта і аўса. Так, у маёнтку Нябышын Ашмянскага пав. ў 16 ст. сяляне здавалі з валокі 2 бочкі жыта, 2 бочкі аўса, 2 бочкі пшаніцы. Збожжавае Дз. сяляне найчасцей павінны былі звезці на панскае поле, засеяць, забаранаваць яго (не ў залік *паншчыны*). Інвентар за 1578 в. Косценева Слонімскага пав. прадпісваў сялянам здаваць «овса бочек две альбо грошай двадцать за одвозы, сена воз один або гроши пять за одвозы, за гусь, куры, яйца, гроши три и пул, за неводы гроши два». Уладальнік маёнтка Газдзеева Менскага ваяв. ў 1705 прапанаваў сялянам плаціць замест 1/2 бочкі жыта — 10 злотых, замест бочкі аўса — 5 злотых, замест воза сена — 3 злотых.



З развіццём таварна-грашовых адносін, ростам таварнасці панскай гаспадаркі ў 2-й пал. 18—1-й пал. 19 ст. Дз. паступова выцясняецца адработачнай і грашовай рэнтамі.

*Літ.*: Похилевич Д.Л. Крестьяне Белоруссии и Литвы в XVI—XVIII вв. Львов, 1957; Яго ж. Крестьяне Белоруссии и Литвы во второй половине XVIII века. Вильнюс, 1966; Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991.

***Васіль Мялешка.***

**ДЗЯЛЫНСКІ** (Działyński) Тытус (Адам Тытус; 24.12.1796, г. Познань—12.4.1861), польскі археограф, мецэнат. З магнацкага роду. Атрымаў прыватную адукацыю ў Познані, Берліне і Парыжы, вучыўся ў Політэхнічнай школе і ун-це ў Празе. За ўдзел у паўстанні 1830—31 завочна прысуджаны да смяротнага пакарання. Удзельнічаў у паўстанні ў Познані ў 1848. Выбіраўся дэпутатам прускага парламента. Калекцыяніраваў рукапісы і кнігі па гісторыі Польшчы і ВКЛ. У зборы Дз. зберагалася шмат матэрыялаў з Нясвіжскага архіва Радзівілаў. У 1819 набыў у М.Казлоўскага спіс Статута ВКЛ 1529, што стала важным навуковым адкрыццём (дагэтуль тэксты Статута на бел. мове не былі вядомы, і ў іх існаванні вучоныя сумняваліся). Зборы Дз. былі даступны для вучоных у яго палацы ў Курніку пад Познанню. Выдаў шмат гіст. крыніц, у т.л. *«Збор літоўскіх законаў з 1389 да 1529»* (1841), *«Акты Таміцкага»* (т. 1—8, 1852—60), «Крыніцы да гісторыі уніі Кароны Польскай і Вялікага княства Літоўскага» («Źródłopisma do dziejów unii Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego», ч. 2—3, Познань, 1856—61), «Спрэчкі і справы паміж Польшчай і Ордэнам крыжакоў» («Lites ac res gestae inter Polonos Ordinemque Cruciferorum», т. 1—3, Познань, 1855—56), творы Л.Гурніцкага, С.Ажахоўскага і інш. У адрозненне ад тагачаснай археаграфічнай практыкі Дз. не дапускаў скарачэнняў тэкстаў і мадэрнізацыі мовы дакументаў. Падтрымліваў кантакты з І.Лялевелем, Ю.Нямцэвічам. У 1858—61 старшыня Т-ва аматараў навук у Познані.

*Літ.*: Bodniak S. Tytus Działyński. Poznań, 1929; Marciniak A. Statuty litewskie w planach wydawniczych Tytusa Działyńskiego // Pamiętnik Biblioteki Kórnickiej. 1973. Z. 11; Яе ж. Rola Tytusa Działyńskiego w rozwoju ośrodka naukowego w Wielkopolsce. Warszawa; Poznań, 1980; Kosmanowie B. i M. Tytus Działyński i jego dzieło: 150 lat dziejów Biblioteki Kórnickiej. Wrocław, 1978.

***Валерый Пазднякоў.***

**ДЗЯМІД УЛАДЗІМІРАВІЧ**, князь пінскі ў 2-й палове 13 ст. У 1262 разам з пінскімі князямі *Фёдарам Уладзіміравічам* і *Юрыем Уладзіміравічам* прыехаў у Небль віншаваць галіцка-валынскага князя Васільку Раманавіча з перамогай над літоўцамі. Упамінаецца, што Д.У. аплакваў смерць свайго брата Юрыя (памёр, відаць, у 1288—89), пасля чаго, магчыма, заняў пінскі прастол.

***Валерый Пазднякоў.***

**ДЗЯНІСАЎ** Уладзімір Мікалаевіч (н. 21.4.1955, г. Мінск), беларускі гісторык культуры, краязнавец. Скончыў Мінскі ін-т культуры (1980). З 1980 у Рэсп. навук.-метадычным цэнтры Мін-ва культуры БССР, з 1983 у Бел. рэстаўрацыйна-праектным ін-це, з 1995 у Нац. гіст. архіве Беларусі. Даследуе гісторыю архітэктуры, культ. і маст. жыццё Мінска, крыніцы па гісторыі архітэктуры і горадабудаўніцтва Беларусі 16—20 ст. Атрыбутаваў і апублікаваў частку рукапісу М.Гаўсмана па гісторыі Мінска (захоўваецца ў Пушкінскім доме ў С.-Пецярбургу). Удзельнічаў у распрацоўцы канцэпцыі рэгенерацыі гіст. цэнтра Мінска, аўтар гіст.-архіўных даследаванняў да праектаў рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры Мінска, Брэста, Оршы і інш. Аўтар прадмовы і адзін са складальнікаў зборніка «Дакументы па архітэктуры і картаграфіі Беларусі ў архівах Санкт-Пецярбурга і Вільні» (1994). З 1995 нам. старшыні гар. арг-цыі Бел. т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры, з 2001 чл. прэзідыума Бел. к-та Міжнар. савета па помніках і гіст. мясцінах.

*Тв.*: Мінская ратуша // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1979. № 3; Комплекс базіліянскіх манастыроў у Мінску // Помнікі старажытнабеларускай культуры. Мн., 1984; Матэрыялы па гісторыі архітэктуры Мінска ў фондах Нацыянальнага музея ў Варшаве // Помнікі культуры: Новыя адкрыцці. Мн., 1985; Площадь Свободы в Минске. Мн., 1985; К истории одной неопубликованной книги // Книга в Белоруссии. Мн., 1988; Мінскі кляштар дамініканцаў // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989 (з З.С.Пазняком); Kościół i klasztor benedyktynek w Mińsku // Przegląd wschodni. 2001. T. 7, z. 3 (27); Belarus // Heritage at Risk. 2001—02. München, 2003; Мінскія бенедыктынкі // Наша вера. 2003. № 2.

**ДЗЯРЖАВА**, дзяржаўнае зямельнае ўладанне ў ВКЛ у 15—18 ст., якое знаходзілася ў распараджэнні пэўнай асобы — *дзяржаўцы* — на вызначаных умовах трымання. Дз. — у 15—16 ст. розныя па велічыні тэрыторыі, некаторыя з іх паступова ператварыліся ў *старасты*, тады яны часам называліся «старасты ці дзяржавы». У 17—18 ст. Дз. складаліся з адной ці некалькіх вёсак або нават іх частак (асобных *дымоў*), часам пад Дз. лічылася толькі пэўная колькасць зямлі, на якой не было аселых сялян. Для трымальнікаў Дз. выдаваліся спец. велікакняжацкія ўставы, якімі яны абавязаны былі кіравацца ў сваёй дзейнасці. Праверку правіл трымання ў час рэвізій ці люстрацый дзярж. уласнасці Дз. ажыццяўлялі спец. асобы — камісары.

*Літ.*: Kutrzeba S. Historja ustroju Polski w zarysie. T. 1—2. Lwów; Warszawa, 1920; Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.

***Валянцін Голубеў.***

**ДЗЯРЖАЎНЫЯ СЯЛЯНЕ**, сельскае феадальна-залежнае насельніцтва, якое жыло на дзяржаўных землях у ВКЛ. Узнікла ў 14 ст. з асабіста вольных сялян-абшчыннікаў і *чэлядзі нявольнай*, пасаджанай на зямлі вял. князя. У склад Дз.с. уваходзілі таксама *сяляне-слугі*, *асочнікі*, *бортнікі*, конюхі і інш. Запрыгонены пры ажыццяўленні *валочнай памеры*. У 14—15 ст. на Беларусі велікакняжацкія землі з Дз.с. шырока раздаваліся асобным феадалам і царкве, адначасова ў вял. князя канцэнтраваліся землі ў выніку ліквідацыі ўдзельных княстваў. У канцы 16 ст. зямельныя ўладанні вял. князя (дамен) з Дз.с. падзелены на *старасты* і *эканоміі*. У 17—18 ст. з Дз.с. зліліся ніжэйшыя ваен. слугі, якія жылі на гаспадарскіх землях (*баяры*). Напярэдадні далучэння Беларусі да Рас. імперыі ва ўсх. Беларусі было каля 351 тыс. Дз.с. (1772) — 37,7% усіх сялян, у цэнтр. і зах. Беларусі — каля 419 тыс. чал. (1791) — 21,1% сялян. Асн. феадальнымі павіннасцямі Дз.с. у 15 ст. былі натуральны і грашовы аброк, у 16—1-й пал. 17 ст. *паншчына*, у 2-й пал. 17 ст.—пач. 18 ст. *чынш*, з 2-й пал. 18 ст. зноў паншчына. У адрозненне ад прыватнаўласніцкіх сялян Дз.с. мелі права скардзіцца на арандатараў і адміністрацыю старостваў і эканомій у каралеўскі *задворны асэсарскі суд*. У 17—18 ст. антыфеадальная барацьба Дз.с. абвастрылася і часам набывала характар узбр. паўстанняў (гл. *Крычаўскае паўстанне 1743—44*).



*Літ.*: Козловский П.Г. Землевладение и землепользование в Белоруссии в XVIII—первой половине XIX в. Мн., 1982.
***Павел Казлоўскі.***

**дзяржаўца**, службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік, часовы ўладальнік *дзяржавы*. У 16 ст. ў дзяржанне аддаваліся гаспадарскія двары або замкі з прылеглай да іх *воласцю*, цэнтрам якой яны звычайна з'яўляліся. Да 16 ст. называўся *намеснікам* або *цівуном*. Дз. прызначаўся вял. князем па яго выбары або па хадайніцтве рады з ліку шляхты — «да волі і ласкі гаспадарскай» або «да жывата», г.зн. пажыццёва, пры гэтым Дз. на карысць вял. князя плацілі «чалабіцце». У *прывілеі 1492* вял. князь Аляксандр абяцаў не патрабаваць «чалабіцця» з шляхты пры наданні пасад, але не выключаў яго выплаты па добрай волі. Дз. выдаваўся спец. ліст на дзяржаўства, уводзіў яго ў пасаду (знаёміў з абавязкамі) падскарбі земскі або ваявода. Каб папярэдзіць злоўжыванні, крадзяжы, у ВКЛ пераважалі пажыццёвыя прызначэнні на тую ці іншую пасаду. Калі Дз. чыніў шкоды гаспадарскай маёмасці або «крыўды» насельніцтву, яго па велікакняжацкаму прысуду маглі пазбавіць пасады. У сваёй дзейнасці Дз. кіраваліся агульнадзярж. нарматыўнымі актамі (прывілеі, Статут ВКЛ 1529), мясц. прывілеямі, уставамі, якія ўлічвалі спецыфіку гіст. развіцця той ці інш. мясцовасці. Гэта выклікала пэўную разнароднасць у паўнамоцтвах Дз. ў розных рэгіёнах, пераважна ў падатковай дзейнасці і даходах. Дз. выконваў гасп., адм.-судовыя функцыі, збіраў падаткі, наглядаў за станам і рамонтам гасп. пабудоў, інвентару маёнтка або замка, займаўся арганізацыяй польнай або замкавай старожы, адказваў за забеспячэнне гаспадаркі рабочай сілай. З мэтай павелічэння даходаў мог асаджваць вольных людзей на пустках. Да 1529 меў права раздаваць пусткі шляхце за вайсковую службу. У абавязкі Дз. ўваходзіў збор розных натуральных і грашовых падаткаў: *дзякла* — жытам, пшаніцай, аўсом і г.д., *мезлева* — ялавічынай, свінінай і інш., у некат. паветах збіраў мядовыя, бабровыя, кунічныя даніны, паборы соллю, рыбай і інш. Дз. збіраў ускосныя падаткі, напр., пенязі карчомныя, падаткі на вайсковыя патрэбы. Падскарбі земскі або ваявода кантралявалі падатковую дзейнасць Дз., які павінен быў двойчы ў год трымаць перад імі справаздачу — «лічбы чыніць». Дз. судзіў гаспадарскіх сялян, мяшчан, якія не падлягалі магдэбургскаму праву, шляхту (да 1564), маёнткі якой знаходзіліся ў межах яго дзяржавы, але яго судовай уладзе не падлягалі асобныя паны, князі і прыватнаўласніцкія падданыя. Дз. быў кіраўніком мясц. адміністрацыі. Да сярэдзіны 16 ст. яму падпарадкоўваліся *віжы*, дзякі, *ляснічыя*, *баброўнічыя*, *гаеўнікі*, падканюшыя і інш. Выкананне пэўных адм.-судовых функцый па мясц. кіраванні забяспечвала стабільныя і разнастайныя даходы. Паводле асабістага распараджэння вял. князя Дз. мог атрымліваць частку непасрэдна гаспадарскіх даходаў, у Літве і Жамойці — частку ўраджаю азімага збожжа, гародніны і інш. Дз. атрымліваў грашовыя або натуральныя «паклоны» ад раздачы насення сялянам з гаспадарскіх жытніц, «абвесткі» з купцоў за гандаль на падуладнай тэрыторыі, «вывадныя куніцы» з жаніхоў, якія выводзілі нявест у інш. мясцовасць, у некат. выпадках — «лоўчае», «сакольнічае». Важнай крыніцай даходаў была судовая дзейнасць. Дз. атрымліваў працэнт ад сумы за разгляд справы на судзе — «перасуд» з істца, «віны малыя» з адказчыка, а таксама «заклады», «зарукі», «пакалоднае» і інш. Наданне пасады Дз. ў ВКЛ было адным са сродкаў утрымання ваеннаслужылага саслоўя. У 16 ст. Дз. ў пераважнай большасці былі асобы, якія належалі да вышэйшых шляхецкіх колаў і нярэдка займалі пасады ў структуры вышэйшай дзярж. улады. Калі скарб значна пабяднеў у сувязі з выдаткамі на вайсковыя патрэбы, пашыралася практыка аддачы дзяржавы ў заставу за пэўную суму грошай (дзесяткі і сотні коп), пазычаных дзяржаве. У гэтым выпадку Дз. мог трымаць двор або замак з воласцю поўнасцю на сваю карысць да выбрання неабходнай сумы або атрымліваць працэнт ад гаспадарскага даходу да выплаты доўгу скарбам. Пасля выплаты пазыкі зноў дзейнічаў як звычайная службовая асоба.

*Літ.*: Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута. [М., 1892].
***Ларыса Бельская.***

**Дзяржынск**, горад у Рэспубліцы Беларусь, цэнтр Дзяржынскага р-на Мінскай вобл., гл. *Койданава*.

**Дзярновіч** Алег Іванавіч (н. 19.8.1966, г. Мінск), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (2004). Скончыў БДУ (1990). У 1988—91 археолаг Ін-та «Белспецпраектрэстаўрацыя». З 1994 у Ін-це гісторыі Нац. АН Беларусі. Даследуе гісторыю Балтыйскага рэгіёна і балтыйскай палітыкі ВКЛ, крыніцазнаўства гісторыі ВКЛ, Метрыку ВКЛ, ням. гістарыяграфію ВКЛ, замкавае мураванае дойлідства ВКЛ. Аўтар кнігі «...in nostra Livonia»: Дакументальныя крыніцы па гісторыі палітычных адносінаў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Лівоніяй у канцы XV—першай палове XVI ст.: Сістэматызацыя і актавы аналіз» (Мінск, т. 1, 2003). Заснавальнік і гал. рэдактар штогадовага навук. альманаха «METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага» (з 2001).

*Тв.*: Пасрэдніцкая роля Апостальскай сталіцы ў дыпламатычных зносінах Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы ў першай палове XVI ст. // Наш радавод. Гродна, 1992. Кн. 4, ч. 2; Гісторыка-археалагічныя даследаванні Бярозаўскага кляштару картузаў // З глыбі вякоў: Наш край. Мн., 1992 (з В.Калніным); Шляхі пранікнення кафлі на Беларусь: Да пытання беларуска-нямецкіх кантактаў // Там жа. Мн., 1996. Вып. 1; Лёс Крэва. Мн., 1993 (з А.Трусавым, І.Чарняўскім); Адносіны Вялікага Княства Літоўскага з нямецкімі дзяржавамі ў канцы XV—першай палове XVI ст. // Бел. мінуўшчына. 1994. № 2; Метрыка ВКЛ аб адносінах Вялікага княства Літоўскага і Святой Рымскай імперыі // Бел. гіст. часопіс. 1995. № 4; Крэва: Мястэчка і гісторыя // Адраджэнне. Мн., 1995. Вып. 1; Да праблемы акта як рознавідавай крыніцы: Дыпламатычнае справаводства канца XV—першай паловы XVI стагоддзя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе // Архівы і справаводства. 2000. № 5; Шляхта і яе зямельныя ўладанні ў Ашмянскім (Ошменским) павеце ў першай палове XVI ст.: (паводле Кнігаў № 12—31 Метрыкі ВКЛ) // METRICIANA. Мн., 2001. Т. 1 (з В.Мянжынскім); Прызабытая публікацыя матэрыялаў Метрыкі ВКЛ // Там жа; Плач па Вялікім Княстве: (да гісторыі транслітэрацыі Метрыкі ВКЛ у 1777—1780-х гадах) // Там жа. Мн., 2003. Т. 2; Деятельность по изучению и изданию Метрики ВКЛ в Беларуси // Новости Литовской Метрики. 2002. № 5; Ля вытокаў традыцы мураванага абарончага дойлідства на беларускіх і ўкраінскіх землях у канцы XII—XIV ст. // Беларусь — Украіна: гістарычны вопыт узаемаадносін. Мн., 2004.

**Дзярэчынскі кляштар дамініканцаў**. Існаваў у 1618—1832 у мяст. Дзярэчын Слонімскага пав. (цяпер вёска ў Зэльвенскім р-не Гродзенскай вобл.).



**Дзярэчынскі кляштар дамініканцаў**. З малюнка Н.Орды. 1877.

Засн. мсціслаўскім кашталянам К.Палубінскім з жонкай Зоф'яй Сапяжанкай. У 1685—1832 апекунамі кляштара былі Сапегі. У касцёле пахаваны вядомы военачальнік А.Г.Палубінскі. Асабліва шанаванымі былі абразы Маці Божай Снежнай, Збавіцеля каля слупа і Антонія Падуанскага. Відаць, з кляштарам нейкім чынам звязаны вядомы лац. старадрук «Rosarium et Officium B.V.M.» А.Г.Палубінскага з медзярытамі А.Тарасевіча. Пасля скасавання кляштара касцёл да 1866 заставаўся парафіяльным. Мураваныя будынкі 17 ст. адлюстраваны на малюнку Напалеона Орды незадоўга да іх разбурэння ў 2-й пал. 19 ст. Зараз на гэтым месцы стаіць неагатычны касцёл 1906—10.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Дзярэчынскі палац**. Пабудаваны ў 1786 у мяст. Дзярэчын Слонімскага пав. (цяпер вёска ў Зэльвенскім р-не Гродзенскай вобл.) у стылі класіцызму паводле праекта арх. Я.С.*Бекера* і Л.С.*Гуцэвіча* як ваенная навучальная ўстанова («акадэмія»). Фундатар — канцлер ВКЛ А.М.Сапега. У пач. 19 ст. яго сын Францішак перарабіў будынак на палац і абкружыў яго паркам. За ўдзел Ф.Сапегі ў паўстанні 1830—31 палац секвестраваны царскімі ўладамі. У пач. 20 ст. перароблены ў вайсковыя казармы (да 1906). Палац — 1-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак. Цэнтр. частка з мансардай на гал. фасадзе была вылучана 8-калонным дарычным порцікам з 3-вугольным франтонам, аздобленым ляпным геральдычным картушам. Пакаты вальмавы дах быў схаваны парапетам. У дэкоры фасадаў выкарыстоўваліся рытмічна размешчаныя прамавугольныя філёнгі і вокны. Планіроўка калідорная з квадратнай залай у цэнтры. Сярод памяшканняў вызначаліся карцінная галерэя, археалагічны кабінет і б-ка (пасля секвестрацыі маст. каштоўнасці вывезены ў Пецярбург). Палац размяшчаўся ў парку рэгулярна-тэраснага тыпу («Малы Версаль») з сістэмай ставоў. Да палаца быў прыбудаваны флігель-тэатр, пры якім А.Сапега трымаў балетную школу пад кіраўніцтвам Прэнчынскага. У маёнтку ў 1768 наладжана вытворчасць адамаскавай тканіны. Палацава-паркавы комплекс знішчаны ў 1920—30-я г.

*Анатоль Кулагін.*

**Дзятлава** (цяпер горад, цэнтр Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Слонімскім пав. Навагародскага ваяв., на р. Дзятлаўка. Упершыню ўпамінаецца ў актах Метрыкі ВКЛ у 1440—50-х г., у складзе Троцкага ваяв. Каля 1492 вял. князь Казімір IV фундаваў тут будаўніцтва касцёла. У 1498 вял. князь Аляксандр падараваў валасць Здзецел (з правам заснавання мястэчка) гетману найвышэйшаму ВКЛ К.І.Астрожскаму, які пабудаваў тут у пач. 16 ст. замак (упамінаецца ў дакументах як «двор Здетело») і царкву. У 1507 Жыгімонт I Стары пацвердзіў правы Астрожскага на Дз. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 у Слонімскім пав. Навагародскага ваяв. У 1580 у Дз. 118 двароў, 5 вуліц. 3 пач. 17 ст. уладанне Сапегаў. У 1624—46 пабудаваны *Дзятлаўскі касцёл*, пры ім дзейнічаў шпіталь. 3 1655 уладанне Палубінскіх. У 1685 Д.Радзівіл ажаніўся з Ганнай Марыяй Палубінскай, за якой у якасці пасагу атрымаў і Дз. У 1689 каля 1000 ж., 126 двароў, 9 вуліц. У *Паўночную вайну 1700—21* 15—20.1.1708 тут знаходзіўся цар Пётр I; у 1708 шведы разбурылі Дз. У 1743 мястэчка моцна пацярпела ад пажару. У 1751 па фундацыі М.Радзівіла пабудаваны *Дзятлаўскі палац*. У 1784 было 176 двароў, 5 вуліц, 3 завулкі, 3 млыны, школа, шпіталь. 3 канца 18 ст. уладанне Солтанаў. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Дзятлаўскага р-на. Мн., 1997.

*Валерый Грынявецкі.*

**Дзятлавіцкі Праабражэнскі манастыр**. Існаваў у 17—19 ст. Засн. ў 1622 у маёнтку Дзятлавічы (цяпер вёска ў Лунінецкім р-не Брэсцкай вобл.) каралеўскім дваранінам Канстанцінам Долматам, які завяшчаў свае маёнткі Дзятлавічы і Лунінец настаяцелям Кіева-Пячэрскай лаўры з умовай, што яны пры Дзятлавіцкай Праабражэнскай царкве створаць манастыр, падначалены канстанцінопальскаму патрыярху і кіеўскаму мітрапаліту. З дыярыуша св. *Дзмітрыя Растоўскага* вядома, што 23.10.1678 грэчаскі мітрапаліт Макарый Лігарыд, які жыў у той час у *Слуцкім Троіцкім манастыры*, правёў тут пахаванне бел. епіскапа слуцкага архімандрыта Феадосія Васілевіча, памерлага ў Любліне. На працягу ўсёй сваёй гісторыі манастыр заставаўся праваслаўным, але ў 1842 яго маёнткі канфіскаваны ў казну (1121 душа), а ён прыпісаны да *Пінскага Богаяўленскага манастыра*, а ў 1855 наогул скасаваны. Пабудаваная ў 1823 драўляная царква засталася прыходскай; у ёй у 1870-я г. захоўвалася рукапіснае Евангелле, старадаўні іканастас і літургічныя рэчы, якія сведчылі пра сувязь з Кіева-Пячэрскай лаўрай. Частка архіва манастыра ў 19 ст. захоўвалася ў Мінскай духоўнай кансісторыі, з дакументаў вядомы імёны яго ігуменаў пачынаючы з 1680-х г.

*Аляксандр Ярашэвіч.*

**Дзятлаўскі касцёл**. Пабудаваны ў 1624—46 у мяст. *Дзятлава* ў стылі ранняга барока. Асвячоны ў гонар Унебаўзяцця Маці Божай. Пасля пажару ў 1743 гал. фасад і інтэр'ер перабудаваны (да 1751) паводле праекта арх. А.Асікевіча. Мураваны 1-нефавы 2-вежавы храм з масіўнай алтарнай апсідай накрыты агульным 2-схільным (над апсідай конусападобным) дахам. Сцены рытмічна расчлянёны вертыкальнымі контрфорсамі. Вял. вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі. Гал. фасад падзелены развітымі гарызантальнымі цягамі на 3 часткі. 2-ярусныя скразныя вежы з купалкамі і фігурны франтон паміж імі вырашаны ў стылі віленскага барока. У аздабленні фасада выкарыстаны плоскія пілястры, раскрапоўкі,

хвалістыя карнізы, глыбокія нішы. У інтэр'еры 7 алтароў 18 ст. ў стылі ракако.

*Тамара Габрусь.*

**Дзятлаўскі палац,** помнік палацава-паркавай архітэктуры стылю ракако. Пабудаваны ў мяст. *Дзятлава* ў 1751 М.Радзівілам, з канца 18 ст. ўласнасць маршалка ВКЛ С.Солтана. Палацава-паркавы комплекс складаўся з мураванага сядзібнага дома, пейзажнага парку з круглым вадаёмам і творамі архітэктуры малых форм (масткі, павільёны). Гасп. пабудовы размяшчаліся пры ўездзе ў сядзібу з Пд. Ад ансамбля збярогся мураваны палац. Спачатку гэта быў накрыты высокім вальмавым дахам 2-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём, фланкіраваны 3-яруснымі 4-граннымі вежамі-алькежамі з фігурнымі шчытамі (не зберагліся). Паркавы фасад вылучаў па цэнтры акруглы эркер параднай залы. На гал. фасадзе яму адпавядае плоскі хвалісты рызаліт, завершаны акруглым франтонам з геральдычнай лепкай; фасад упрыгожвалі круглыя медальёны з партрэтнымі барэльефамі, канеліраваныя пілястры, арнаментальная лепка ў стылі ракако. Планіроўка анфіладная з параднай залай у цэнтры (не збераглася). За ўдзел у паўстанні 1830—31 Солтанаў палац канфіскаваны, з 1889 выкарыстоўваўся як казарма, з пач. 20 ст. тут размяшчалася школа, цяпер медустанова.

*Анатоль Кулагін.*

**Длугарай** Войцех Альбертус (1557 або 1558—пасля 1619), лютніст і кампазітар, жыццё якога было звязана з ВКЛ. Інфармацыю пра месца нараджэння падказвае вызначэнне «Gostinensis» (магчыма, Польшча). Першапачаткова вядомы як «бандурыст Войташак» пры двары Самуэля Збароўскага, ад якога ўцёк у 1579. У 1580 у Кракаве ўступіў у ордэн бернардзінцаў як брат Францішак. У 1583—86 каралеўскі лютніст у Кракаве, Варшаве, а таксама Гародні — рэзідэнцыі Стафана Баторыя, з дваром якога падарожнічаў па краіне. Пазней выехаў на Захад. У 1590 імкнуўся атрымаць пасаду пры двары князя Людвіка ў Штутгарце. Каля 1619, відаць, знаходзіўся ў Лейпцыгу, дзе захавалася т.зв. «Табулатура Длугарая» (пазначана 1619, падпісана ў 19 ст. як «Lautenbuch des Albert Dlugorai»). У зб-ку змешчана амаль 550 твораў, сярод якіх апрацоўкі музыкі Дыямедаса, Доўланда, Лаўрэнціна, Ферабоска, Шайна і інш. аўтараў эпохі, арыгінальныя творы для лютні, шматлікія танцы. Д. — аўтар фантазій, фуг, віланэлаў, інш. інструментальных твораў пераважна танцавальнага характару. Яго творам уласцівы частыя змены ў фактуры, тэмпах руху і метры, танальным плане, што надае яго музыцы свабодны, яркі, імправізацыйны характар. Меладычны голас у многіх творах мае рысы віртуознасці. Творы Д. напісаны ў познарэнесансавым гамафонна-гарманічным стылі, з'яўляюцца характэрнымі ўзорамі муз. мастацтва сваёй эпохі.

*Тв.*: У зб.: Помнікі музычнай культуры Беларусі. Вып. 2. Музыка Беларусі XVI—XVII стст. Мн., 1995.

*Аляксей Фралоў.*



**Дзятлаўскі касцёл** Унебаўзяцця Маці Божай.

**Длугаш** (Długosz) Ян (1415, г. Бжазніца, Польшча—10.5.1480), польскі гісторык, дыпламат і царкоўны дзеяч. Вучыўся ў Кракаўскай акадэміі (1428—31). Канонік кракаўскі (з 1436), сакратар кракаўскага біскупа. Удзельнічаў у дыпламатычных місіях у Італію, Чэхію і Венгрыю. Выхоўваў дзяцей вял. князя літоўскага і караля польскага Казіміра Ягелончыка (з 1467). Аўтар агіяграфічных і гіст. прац. Найб. вядомая «Гісторыя Польшчы», інакш «Летапісы, альбо Хронікі слаўнага Каралеўства Польскага», напісаная ў 1455—80 на лац. мове ў 12 кн. (т. 1—6 выд. ў 1614—15, поўнасцю ў 1711—12). Яна складаецца са стараж. дахрысціянскай гісторыі (т. 1), гісторыі Польшчы ад кн. Мечыслава да караля Ягайлы і гісторыі еўрапейскіх дзяржаў, найперш славянскіх (т. 2—9), гісторыі часоў Ягелонаў (т. 10—12). Гэта праца калектыўная. Спачатку былі апісаны падзеі 15 ст., потым збіраўся матэрыял па архівах, бібліятэках і кляштарах, для першых кніг выкарыстоўваліся ўсе вядомыя, у т.л. сёння страчаныя, крыніцы. Найб. заслуга Д. ў напісанні гісторыі з 1386 (на гэтым канчалася хроніка Яна з Чарнкова): ён сам быў сведкам многіх падзей, карыстаўся арыгінальнымі дакументамі, шмат якія з іх перадаў даслоўна. Узорам для яго былі рымскія класікі (Д. першы прывёз у Польшчу творы Ціта Лівія, ад якога пераняў схему працы), аднак ён ставіўся да іх крытычна, успрымаў гісторыю прагматычна. Шмат увагі аддаваў гісторыі ВКЛ, у канцы жыцця вывучыў «рускую» мову, каб чытаць летапісы, у т.л. беларускія («Летапісец вялікіх князёў літоўскіх»). У «Гісторыі» падрабязна апісана знешнепаліт. гісторыя ВКЛ (барацьба з татарамі, крыжакамі, Масковіяй,



Польшчай), шмат месца адведзена ўнутрыпаліт. сітуацыі: няўдалай каранацыі Вітаўта, забойству Жыгімонта Кейстутавіча, соймам ВКЛ і Польшчы, праўленню асобных князёў (Гедзіміна, Альгерда), Востраўскаму пагадненню 1392 паміж Ягайлам і Вітаўтам, Грунвальдскай бітве 1410, вельмі высока ацэнены перыяд княжання Вітаўта (паводле «Пахвалы пра вялікага князя Вітаўта»). Ёсць інфармацыя пра гаспадарку і звычаі стараж. літвінаў, асобныя гарады і мястэчкі Беларусі (Берасце, Навагародак, Пінск, Слонім і інш.), змешчаны геагр. нарыс зямель ВКЛ. Д. зрабіў вял. уплыў на польскую хранаграфію 16—17 ст., праз творы *Мацея з Мехава* і М.*Стрыйкоўскага* быў вядомы ў ВКЛ.

*Тв.*: Roczniki czyli Kroniki sławnego Królestwa Polskiego. Ks. 1—11. Warszawa, 1961—85.

*Літ.*: Semkowicz A. Krytyczny rozbiór Dziejów Polskich Jana Długosza (do r. 1384). Kraków, 1887; Gawęda S. et al. Rozbiór krytyczny Annalium Poloniae Jana Długosza z lat 1385—1444. T. 1 // Prace Komisji nauk historycznych. 1961. № 7; Ix ж а. Rozbiór krytyczny Annalium Poloniae Jana Długosza z lat 1445—1480. T. 2 // Там жа. 1965. № 12.

***Альбіна Семянчук.***

**Длужык-Каменскі** Адам, гл. *Каменскі-Длужык* А.

**Дняпроўска-Бугскі канал**, гл. *Каралеўскі канал.*

**Добруш** (цяпер горад, цэнтр Добрушскага р-на Гомельскай вобл., Рэспубліка Беларусь), вёска ў Рэчыцкім пав. Вядомы з 1560, знаходзіўся ў Гомельскім старастве. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

**Догель** Мацей (6.8.1715, в. Гембулы Лідскага пав.—24.2.1760), гісторык-архівіст, прававед. Пасля заканчэння Шчучынскага піярскага калегіума ўступіў у ордэн піяраў і займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. Надворны маршалак ВКЛ уладальнік мяст. Шчучын Ю.Сцыпіён даручыў яму выхаванне свайго сына, разам з якім Д. выязджаў за мяжу, наведваў лекцыі ў Лейпцыгскім і Парыжскім ун-тах, удасканальваў свае веды ў філасофіі, міжнар. праве і матэматыцы. З канца 1740-х г. рэктар піярскага калегіума ў Вільні, заснаваў школу з асобным інтэрнатам для шляхецкай моладзі (гл. *Віленскі піярскі «Калегіум Нобіліум»*). У апублікаваным «Паведамленні» пра адкрыццё гэтай школы падкрэсліваў вял.



CODEX
DIPLOMATICVS
REGNI POLONIAE
ET
MAGNI DVCATVS LITVANIAE
IN QVO
PACTA, FOEDERA, TRACTATVS PACIS,
MVTVAE AMICITIAE, SVBSIDIORVM, INDV-
CIARVM, COMMERCIORVM,
NEC NON
CONVENTIONES, PACTIONES, CONCORDATA,
TRANSACTIONES, DECLARATIONES, STATVTA, ORDINATIONES,
BVLLAE, DECRETA, EDICTA, RESCRIPTA, SENTENTIAE ARBITRALES,
INFEVDATIONES, HOMAGIA
PACTA ETIAM MATRIMONIALIA ET DOTALIA
LITERAE ITEM REVERSALES, CONCESSIONVM,
LIBERTATIS, IMMVNITATIS, DONATIONVM, OPPIGNORATIONVM, RENVN-
TIATIONVM, ERECTIONVM, OBLIGATIONVM, VENDITIONVM, EMPTIONVM,
PERMVTATIONVM, CESSIONVM, PROTESTATIONVM
ALIAQVE OMNIS GENERIS
PVBLICO NOMINE ACTORVM ET GESTORVM
MONVMENTA
NVNC PRIMVM EX ARCHIVIS PVBLICIS ERVTA AC IN LVCEM PROTRACTA
EXHIBENTVR.

VILNAE
Ex Typographia Regia & Reipublicae Collegii C. C. R. R. Scholarum Piarum.
M DCC L VIIII

М.**Догель**. «Дыпламатычны кодэкс Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага». Т. 5. Вільня, 1759. Тытульны ліст.

ролю асветы ў справе маральнага ўдасканалення народа. Шмат падарожнічаў, у 1748 як пасол Рэчы Паспалітай меў магчымасць працаваць у архівах і бібліятэках Германіі, Францыі, Галандыі, дзе сабраў шмат гіст. і дыпламатычных дакументаў. Выкарыстоўваў таксама рэдкія, малавядомыя або нават сакрэтныя афіцыйныя дакументы, што захоўваліся ў каралеўскім архіве Кракава і Нясвіжскім архіве Радзівілаў. Асн. навуковым і наватарскім на той час выданнем Д. быў збор міжнар. трактатаў. З 8 запланаваных тамоў выйшлі толькі 3 пад назвай «Дыпламатычны кодэкс Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага» (т. 1, 1758, т. 4, 1764, т. 5, 1759). Нявыдадзеныя матэрыялы (5 тамоў) у рукапісах паступілі ў Каралеўскую бібліятэку (Варшава), потым у Віленскі ун-т, адкуль у Пецярбургскую публічную бібліятэку. Выдаў таксама збор дакументаў «Граніцы Польскага каралеўства і Вял. кн. Літоўскага» (1758) па вызначэнні дзярж. граніцы ВКЛ з Польшчай у сярэдзіне 16 ст. Яго зборнікі матэрыялаў па гісторыі міжнар. адносін Польшчы, Літвы і Беларусі за 13—18 ст. як гіст. крыніцы не страцілі свайго значэння.

*Літ.*: Бирало А.А. Философская и общественная мысль в Белоруссии и Литве в конце XVII—середина XVIII в. Мн., 1971.

***Георгій Галенчанка.***

**Догель** Юзаф, мастак, прадстаўнік ракайльнага кірунку манументальнага жывапісу 18 ст. Манах ордэна кармелітаў абутых. Да 1756 працаваў у кляштарах Рускай правінцыі св. Юзафа (потым Руска-Літоўская правінцыя св. Георгія). Аўтар ансамблевых размалёвак, якія ўпрыгожваюць скляпенні, сцэны касцёлаў св. Станіслава (Унебаўзяцця Дзевы Марыі) у Магілёве (1765—67), Унебаўзяцця Дзевы Марыі ў Мсціславе (1755) і Унебаўзяцця Дзевы Марыі ў Бялынічах (1761, у 2 апошніх не захаваліся, рэшткі захоўваюцца ў Магілёўскім абласным мастацкім музеі).

*Літ.*: Gorszkowoz O. Wystrój malarski kościoła pokarmelickiego Św. Stanisława w Mohylewie // Sztuka pograniczy Rzeczypospolitej w okresie nowożytnym od XVI do XVIII wieku. Warszawa, 1998.

***Вольга Бажэнава.***

**Докшыцы** (цяпер горад, цэнтр Докшыцкага р-на Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., каля вытокаў р. Бярэзіна. Узніклі не пазней 14 ст. як сяло ў складзе Харэцкай вол., частка якой была падаравана вял. князем Вітаўтам віленскаму намесніку Манівіду (Войцеху). Упершыню Д. упамінаюцца ў 1407, калі Манівід атрымаў пацвярджэнне на сёлы і сялян-даннікаў у Харэцкай вол., сярод якіх названы даннікі «доксичане». Пасля смерці Манівіда (1424) Д. перайшлі да яго сына Яна (Івашкі) Манівідавіча, у 1458 да сына апошняга — Войцеха. Пасля яго смерці ў 1475 спадкаемніцамі манівідавай спадчыны сталі сёстры Ядвіга (жонка Алехны Судзімонтавіча) і Соф'я (жонка Мікалая Радзівілавіча). Пры падзеле спадчыны частка двароў у Д. дасталася Ядвізе, частка — Соф'і. У далейшым Д. зведалі яшчэ большае драбненне. Доля Ядвігі адышла да яе дачкі Соф'і, якая ў канцы 15 ст. выйшла замуж за кн. Аляксандра Юр'евіча Гальшанскага, а пасля яе смерці (1517) была падзелена паміж дзецьмі ад гэтага шлюбу. З іх доля ў Д. дасталася Ганне Гальшанскай (жонка Мікалая Юр'евіча Паца), потым яе сынам. Доля Соф'і Радзівілавай перайшла да яе старэйшага сына Мікалая Мікалаевіча Радзівіла, пазней віленскага ваяводы (памёр у 1521). У 1536 сярод яго спад-



чыны ўпамінаецца даніна ў памеры 36 пудоў мёду, якую плацілі «докшыцкія людзі». З трох сыноў М.М.Радзівіла апошні, Ян, памёр у 1542, пасля чаго гэта частка Д. стала спадчынай яго дачок. З іх Ганна была жонкай (з 1554 удавой) Станіслава Пятровіча Кішкі. Перажыўшы сясцёр, яна сабрала ўсю бацькоўскую спадчыну. У 1560 ёй належалі 48 двароў (службаў) у Д., дзе ў той час ужо існавала царква. У 1561 Ганна набыла ў Станіслава Мікалаевіча Паца са згоды яго братоў Мікалая, Дамініка і Паўла іх долю ў Д., якая налічвала 5 службаў. Заставалася яшчэ адна частка Д., што належала сястры Ганны Гальшанскай Ядвізе (жонка Яна Літавора Храптовіча), потым дачцэ апошняй Ганне і яе мужу Юрыю Осціку. У 1569 іх сын Мікалай Юр'евіч Осцік падараваў гэту частку Д. сярод інш. сваіх маёнткаў зяцю кн. Льву Сангушку-Кашырскаму. Далейшы след яе не прасочваецца. Паводле адм. рэформы ВКЛ 1565—66, Д. ўваходзілі ў Менскі пав. Пасля смерці ў 1600 Ганны Кішчынай Д. належалі яе сыну Станіславу Кішку (памёр у 1617), а фактычна сынам апошняга. З іх Станіслаў Станіслававіч Кішка (1584?—1629) перайшоў з кальвінізму ў каталіцтва і пазней стаў жамойцкім біскупам, у 1608 ён заснаваў у Д. драўляны касцёл і падараваў яму фальварак Туркі. У 1621 Д. атрымалі статус мястэчка, а ў 1622 С.С.Кішка падараваў асн. яго частку (на правым беразе р. Бярэзіна) капітулу Жамойцкага біскупства, якое ў той час узначальваў. Левабярэжную частку Д. у сярэдзіне 18 ст. набыў у спадкаемцаў Кішкаў менскі кашталян Юдзіцкі, які потым прадаў яе Антонію Гутаровічу. У *Паўночную вайну 1700—21* мястэчка і касцёл у 1708 спалены шведамі (касцёл адноўлены ў 1745—53, у 1781 пры ім утвораны невял. кляштар). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Докшыцкага р-на. Мн., 2004.

***Вячаслаў Насевіч.***

**дольнікі**, катэгорыя сялян ВКЛ у 15—18 ст., галоўнай феадальнай павіннасцю якой была *доля*. Акрамя гэтага, Д. выконвалі інш. асн. павіннасці: хадзілі на *талаку* да 12 дзён улетку, будавалі і рамантавалі панскія пабудовы, масты, выконвалі таксама *стацыю, падводную павіннасць, бяброўшчыну*. У 16—18 ст. найб. пашыраны ў Бел. Падзвінні. З развіццём таварна-грашовых адносін і ростам сувязей сельскай гаспадаркі з унутраным і знешнім рынкамі Д. паступова ператвараліся ў паншчынных або *чыншавых сялян*.

*Літ.*: Пичета В.И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. М., 1961; Спиридонов М.Ф. Закрепощение крестьянства Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1993.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Дольскія**, княжацкі род уласнага герба («Касцеша» са зменай). Відаць, паходзілі ад турава-пінскіх Рурыкавічаў. Прозвішча ад в. Дольск (Стары Дольск, Пінскі пав., цяпер Украіна). Асн. маёнткі мелі ў Пінскім пав. Гэтая галіна роду згасла па мужчынскай лініі ў канцы 17 ст., на Украіне пабочныя адгалінаванні Д. існавалі ў 19 ст. Першымі вядомымі з роду Д. былі: Андрэй, які ў 1488 атрымаў ад вял. князя Казіміра 6 коп грошаў з луцкага мыта; Ілья, дзедзіч Дольска, у 1528 выстаўляў у войска 2 вершнікаў; Пракоп, суддзя гродскі ваўкавыскі ў 1564; Беата, жонка кн. Саламярэцкага, удзельнічала ў абароне г. Дубна ад татараў у 1577. Найб. вядомыя:

Міхал Ніцыфар (?—1623), сын Рамана. Стольнік, потым падсудак земскі пінскі, у 1589 прызначаны паборцам пінскім. Суддзя земскі пінскі з 1606, кашталян берасцейскі з 1621, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1611.

Пракоп Раманавіч (?—?), сын Рамана, брат Міхала Ніцыфара. Суддзя земскі ваўкавыскі ў 1609—23. Меў сыноў Андрэя, Крыштофа, Мікалая, Паўла Уладзіслава, якія страцілі княжацкі тытул.

Андрэй (?—1646), сын Пракопа Раманавіча. Дваранін імператара Фердынанда II, як сакратар польскага караля быў паслом на сойм 1627. З 1628 падкаморы ваўкавыскі.

Крыштоф (?—1633), сын Пракопа Раманавіча. Дваранін каралеўскі, з 1631 падкаморы пінскі. Яго сын Казімір загінуў у бітве пад Магілёвам у сярэдзіне 17 ст.

Павел Уладзіслаў (?—да 1645), сын Пракопа Раманавіча. У маладосці дваранін імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі, потым сакратар караля польскага, войскі ваўкавыскі пасля 1640.

Мікалай (?—1647), сын Пракопа Раманавіча. Падсудак земскі пінскі ў 1600, харужы пінскі з 1633. Забіты ў час казацкіх нападаў уласнымі падданымі ў Целяханах.

Ян Кароль (1637—29.4.1695), сын Мікалая. Падстолі слонімскі з 1656, пінскі падкаморы з 1662, маршалак у 1666—76, адначасова крайчы ВКЛ у 1670—76, падчашы ВКЛ у 1676—85, маршалак надворны ВКЛ у 1685—91, маршалак вялікі ВКЛ з 1691. Удзельнічаў у войнах са Швецыяй, Расіяй, Турцыяй. У 1690 атрымаў ад урада Рэчы Паспалітай зямлю пад Пінскам, дзе збудаваў прадмесце Каралін і бастыённы замак. Палкоўнік каралеўскі, староста пінскі і ваўкавыскі, адміністратар Аліцкай эканоміі. Фундаваў кляштары і калегіумы піяраў у Дубровіцы ў 1684 і ў Любяшове (Новым Дольску) у 1686. У канцы жыцця карыстаўся графскім тытулам. Яго 10 дзяцей памерлі ў дзяцінстве, дачка Кацярына выйшла замуж за Міхала Серваця Вішнявецкага.

***Валерый Пазднякоў.***

**доля**, падатак з сялян ВКЛ у 15—18 ст. на карысць землеўладальніка, які збіраў чацвёртую частку («долю») ураджаю. У 16—18 ст. пашырана на Бел. Падзвінні. Выконвалі гэтую павіннасць сяляне — *дольнікі*. У канцы 18 ст. Д. заменена чыншам ці паншчынай.

**Доманты**, Доманты-Машэнскія, княжацкі род уласнага герба (наканечнік стралы на 2 маладзіках). Паходжанне невядома. Згодна з родавай легендай, Д. разам з *Гедройцамі* паходзілі ад літоўскага князя Даўмонта і з Літвы перасяліліся на Кіеўшчыну. Існуе меркаванне, што Д. паходзілі ад князёў *Глінскіх*. Ад маёнтка Мошны ў Чаркаскім пав. утворана 2-я частка прозвішча. Першы вядомы прадстаўнік роду — князь Васіль, які жыў на мяжы 15—16 ст. і валодаў Мошнамі. Ад 1-й жонкі меў сына Васіля, ад 2-й, Алены Глінскай, — 2 дачок, якія выйшлі замуж за Яна Келбоўскага і Міхаіла Грыбуновіча-Байбузу. Васіль Васілевіч (?—пасля 1555) меў сына Рыгора і дачку Аўдоццю. Рыгор Васілевіч (?—пасля 1591) валодаў маёнткамі Мошны, Павуковічы, Домантаў Палескі (апошні прадаў у 1591), дварамі ў Кіеве і Чаркасах. Мошны ён прадаў князям Вішнявецкім. Астатнія яго маёнткі перайшлі да ўдавы Апалоніі з Тышаў-Быкоўскіх, якая ў 1640 прадала іх князю Я.Вішнявецкаму. Пасля гэтага звесткі пра род Д. адсутнічаюць. Па-за радаводам вядомы князь Гарайн Д., служэбнік падляшскага ваяводы В.Тышкевіча, які ў 1567 завяшчаў князю баярскі дварэц (двор) Медухава каля Лагойска.

***Валерый Пазднякоў.***



**Дорпат** (эст. Тарту, Tartu, цяпер горад у Эстонскай Рэспубліцы), горад у Інфлянтах, на р. Эмайыгі (Эмбах). Упершыню ўпамінаецца пад 1030 як Юр'еў, пабудаваны кн. Яраславам Мудрым. У 1224 захоплены рыцарамі-мечнікамі (гл. ў арт. *Інфлянцкі ордэн*), якія назвалі яго Д. Назва паходзіць ад наймення ўмацаванага паселішча эстаў Тарбату, якое існавала на месцы Д. з 10 ст. У 1225 Д. абраў сваім месцам знаходжання біскуп эстонскі (леальскі) Герман фон Бекесгаведэ, які ў 1235 афіцыйна перанёс сюды сваю рэзідэнцыю з Леаля (Лігулы). Утварылася Дорпацкае біскупства (1235—1558), якое стала адным з гал. палітычных суб'ектаў Лівонскай канфедэрацыі. У 1234 наўгародскі князь Яраслаў атрымаў перамогу над лівонцамі пад Д. Паводле мірнага дагавора, уладар горада — дорпацкі біскуп мусіў плаціць даніну Ноўгараду. Гэтая т.зв. «даніна веры» ў 16 ст. стала для цара Івана IV Грознага падставаю для пачатку *Інфлянцкай вайны 1558—82*. Д. — удзельнік *Ганзы*, пасрэднік у гандлі з Псковам і Ноўгарадам. Відаць, мяшчане Д. ўжо з 13 ст. карысталіся гар. правамі на ўзор Рыгі, але першае ўпамінанне пра гэта адносіцца да 1375. Д. быў адным з найбуйнейшых гарадоў Лівоніі. У пачатку Інфлянцкай вайны ў ліп. 1558 Д. заняты рас. войскамі, таму горад і біскупства не бралі ўдзелу ў актах падданства вял. князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту. Пасля адваявання Інфлянтаў Стафан Баторый у 1582 падпісаў «Інфлянцкую канстытуцыю», паводле якой былі ўтвораны 3 прэзідыяты, у т.л. Дорпацкі, які ўвайшоў у склад *Задзвінскага княства* Рэчы Паспалітай. У 1598 прэзідыят рэарганізаваны ў *Дорпацкае ваяводства*. У ходзе *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* у 1625 Д. страчаны на карысць Швецыі, што замацавана *Альтмаркскім перамір'ем 1629*. У 1632 шведскі кароль Густаў II Аўгуст заснаваў у Д. універсітэт (Academia Gustaviana). У *Паўночную вайну 1700—21* Д. заняты рас. войскамі (1704) і паводле Ніштацкага мірнага дагавора 1721 далучаны да Расіі.

*Літ.*: Gernet A. von. Verfassungsgeschichte des Bisthums Dorpat bis zur Ausbildung der Landstände. Reval, 1896; Rauch G. von. Stadt und Bistum Dorpat zum Ende der Ordenszeit // Zeitschrift für Ostforschung. 1975. Bd. 24; Czaja R. Miasta inflanckie i estońskie w XIII—XVI wieku // Inflanty w średniowieczu: Władztwa zakonu krzyżackiego i biskupów. Toruń, 2002; Misāns I. Riga, Dorpat und Reval im Spannungsfeld zwischen den wendischen und preußischen Städten vom Ende des 14. bis zur Mitte des 15. Jahrhunderts // Prusy i Inflanty między średniowieczem a nowożytnością. Toruń, 2003.

***Алег Дзярновіч.***

**Дорпацкае ваяводства**, адм.-тэр. адзінка Рэчы Паспалітай у 1598—1629. Створана на тэрыторыі б. Дорпацкага біскупства ў Лівоніі (*Інфлянтах*), ахоплівала гіст.-геагр. рэгіён Угаўнія (паўд.-ўсх. Эстонія). Цэнтр — г. *Дорпат* (Тарту). У пачатку *Інфлянцкай вайны 1558—82* у ліп. 1558 Дорпат быў заняты войскамі Івана IV, таму Дорпацкае біскупства не брала ўдзелу ў актах падданства вял. князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту і унійным працэсе з ВКЛ. Пасля адваявання Інфлянтаў у Расіі Стафан Баторый разглядаў землі Дорпацкага біскупства як здабытую тэрыторыю, дзе ён не быў звязаны якімі-небудзь абавязкамі. У 1582 манарх падпісаў «Інфлянцкую канстытуцыю», паводле якой створаны Дорпацкі прэзідыят. Дорпацкі прэзідэнт, як і іншыя саноўнікі Інфлянтаў, не атрымаў месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай. Паводле «Інфлянцкай ардынацыі» 1598 прэзідыят перайменаваны ў ваяводства. Дорпацкія ваявода і кашталян сталі сенатарамі. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* шведскія войскі ў 1625 узялі Дорпат. Паводле *Альтмаркскага перамір'я 1629* Д.в. засталося за Швецыяй, але ў Рэчы Паспалітай працягвалася намінацыя на дорпацкія ўрады. Паводле *Аліўскага міру 1660* Рэч Паспалітая канчаткова прызнала за Швецыяй заваяваную ёю частку Інфлянтаў. Намінацыя на ўрады дорпацкага ваяводы і кашталяна спынілася, але на інш. дорпацкія ўрады (абозны, войскі, гараднічы, канюшы, лоўчы, мечнік, падкаморы, падстолі, падсудак, падчашы, пісар земскі, скарбнік, стольнік, стражнік, харужы, чашнік) працягвалася да канца існавання Рэчы Паспалітай.

Ваяводы дорпацкія: М.Курч (1600—02), Д.Карнкоўскі (1614—17), М.Кішка (1617—26), К.Дэнгаф (1627—34), Г.Я.Тызенгаўз (фон Тызенгаўзен; 1634—40), А.Ляшчынскі (1641—51), Э.Календа (1651), Т.Дэнгаф (1651—54), З.Апацкі (1654), А.Л.фон Люденгаўзен-Вольф (да 1657), З.Выбраноўскі (1657—58), П.П.Ляшчынскі (1658—70).

Кашталяны дорпацкія: М.Ленек (1599—1611), Б.Гольцшугер (Гольдэшаўэр, Гольчур; 1612—20), Я.Корсак-Галубіцкі (1620—21), А.Масальскі (1627—31), Т.Грахоўскі (1633—38), П.Рудаміна-Дусяцкі (1639—43), Г.Дэнгаф (1644—46), М.Асалінскі (1648—50), Т.Касакоўскі (1650—52), В.Гольцшугер (1653—56), А.М.Няміра (1660).

*Літ.*: Tarvel E. Stosunek prawnopaństwowy Inflant do Rzeczypospolitej oraz ich ustrój administracyjny w l. 1561—1621 // Zapiski historyczne. 1969. Z. 1; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 9. Urzędnicy inflanccy XVI—XVIII wieku. Kórnik, 1994.

***Алег Дзярновіч.***

**Дорпацкі езуіцкі калегіум**. Рэзідэнцыя і калегіум езуітаў існавалі ў г. *Дорпат* у 1583—1625. Кароль Стафан Баторый запрасіў сюды езуітаў у 1582, якія ў 1583 заснавалі тут рэзідэнцыю. З 1583 ім належаў касцёл св. Кацярыны (раней адносіўся да кляштара брыгітак), з 1585 кафедральны касцёл Дзевы Марыі, з 1585 — невял. правасл. царква. 14.1.1586 кароль падпісаў акт фундацыі калегіума. У 1583 пачала працаваць семінарыя па падрыхтоўцы перакладчыкаў для краін Усх. і Паўн. Еўропы. У 1584 навучалася 30 вучняў, у 1585—80, у 1592 — 70, у 1618—42. З 1584 дзейнічаў тэатр, мелася б-ка. У 1593—99 працавала настаўніцкая семінарыя, якая штогод падрыхтоўвала 5 настаўнікаў для езуіцкіх навучальных устаноў у Літве і Беларусі. У 1592 у інтэрнаце жыло 12 вучняў, 8 семінарыстаў з Вільні, а таксама 10 вучняў збяднелых сем'яў, якія знаходзіліся на ўтрыманні калегіума. У сувязі з пач. *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* і захопу Дорпата шведамі ў 1601 заняткі прыпыніліся. Дорпацкія езуіты былі захоплены ў палон і вывезены ў Стакгольм. Вярнуліся ў 1603. Цяжкае эканам. становішча краю не дазволіла адразу ж адкрыць калегіум. У 1606 яму належалі 2 маёнткі, даход з якіх складаў 750 злотых. У 1611 пачаліся заняткі ў класах граматыкі. У 17 ст. існавала муз. бурса. У 1625 шведы захапілі Дорпат і адкрылі замест Д.е.к. пратэстанцкую акадэмію, б-ка калегіума ў 1626 вывезена ў Швецыю.

***Валерый Грынявецкі.***

**Доўгірд** Самуіл, паэт канца 16—пач. 17 ст. Паходзіў з Ашмяншчыны. Пісаў на польскай мове. У 1624 выдаў твор на біблейскія тэмы «Гісторыя пра Сусанну...» («Historia o Susanie...»), у 1626 — гіст. паэму «Генеалогія, або Кароткае апісанне вялікіх літоўскіх князёў і зробленых імі



значных і мужных подзвігаў» («Genealogia, albo Krótkie opisanie Wielkich Książąt Litewskich...», паводле М.*Стрыйкоўскага*), у якой апісаны бітвы з татарамі каля Менска, Друцка, Віцебска, Слуцка, падзеі ў Навагародку, Гародні, Полацку, Пінску, Тураве, услаўлены мужнасць і гераізм воінаў ВКЛ. Творы Д. надрукаваны ў Любчанскай друкарні.

***Якаў Парэцкі.***

**Доўнар** Таісія Іванаўна (н. 15.10.1944, в. Шацк Пухавіцкага р-на), беларускі юрыст. Д-р юрыд. навук (1997). Скончыла БДУ (1973). З 1976 выкладчык, з 1988 дацэнт, з 1998 праф. кафедры тэорыі і гісторыі дзяржавы і права БДУ. Даследуе этапы, характэрныя рысы і тэндэнцыі развіцця права Беларусі 14—18 ст., асаблівасці кадыфікацыі заканадаўства ў 16 ст., прававую гісторыю і прававую культуру Беларусі і іх узаемасувязь з агульнаеўрап. працэсам эвалюцыі права. Асобныя навук. працы прысвечаны гісторыі канстытуцыйнага, крымінальнага, грамадзянскага права (рэчавага, абавязацельнага, залогавага, спадчыннага і інш.). Адзін з аўтараў і перакладчыкаў кнігі «Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі» (1989), адзін з аўтараў і рэдактараў кнігі «Статут Вялікага княства Літоўскага 1566» (2003).

*Тв.*: Уголовное право феодальной Беларуси (XV—XVI вв.). Мн., 1995 (з В.А.Шаўкапляс); История государства и права Беларуси (1917—1996 гг.). Мн., 1996 (з А.Ф.Вішнеўскім); Краткий очерк истории государства и права Республики Беларусь: (Послеоктябрьский период). Мн., 1997; Крымінальнае права Беларусі: (Закон, злачынства, адказнасць). Мн., 1997 (у сааўт.); Грамадзянскае права феадальнай Беларусі XV—XVI стст. Мн., 1997; Развіццё асноўных інстытутаў грамадзянскага і крымінальнага права Беларусі ў XV—XVI стст. Мн., 2000; Дагаворы і граматы як крыніцы беларускага феадальнага права. Мн., 2000 (у сааўт.); Гісторыя канстытуцыйнага права Беларусі. Мн., 2001 (з Р.А.Васілевічам, І.А.Юхо); Канстытуцыйнае права Беларусі феадальнага перыяду: (Па Статутах ВКЛ 1529, 1566, 1588 гг.). Мн., 2001; Помнікі права Беларусі феадальнага перыяду. Мн., 2001.

**Доўнар-Запольскі** Мітрафан Віктаравіч [2(14).6.1867, г. Рэчыца Мінскай губ.—30.9.1934], бел. гісторык, эканаміст, этнограф, заснавальнік беларускай нацыянальнай школы гістарыяграфіі. Д-р гіст. навук (1905), праф. (1902). Скончыў гіст.-філалагічны факультэт Кіеўскага ун-та (1894). У 1895—97 старшы памочнік архіварыуса Маскоўскага архіва Мін-ва юстыцыі. З 1896 заснавальнік і сакратар археаграфічнай камісіі пры Маскоўскім археал. т-ве. З 1899 прыват-дацэнт гіст.-філалагічнага факультэта Маскоўскага ун-та. З 1901 у Кіеўскім ун-це прыват-дацэнт, ардынарны прафесар, заг. кафедры рус. гісторыі. У 1905 заснаваў Вышэйшыя жаночыя курсы, у 1906 — прыватныя камерцыйныя курсы (у 1907 ператвораны ў Кіеўскі камерцыйны ін-т). Да 1917 дырэктар гэтага ін-та, кіраўнік кафедры гісторыі нар. гаспадаркі, арганізатар і старшыня гіст.-этнаграфічнага, затым сацыялагічнага гурткоў. У 1918 удзельнічаў у дзярж. будаўніцтве Беларусі. Быў членам Рады Бел. Нар. Рэспублікі (БНР), членам дыпламатычнай місіі БНР на Украіне, старшынёй Бел. гандлёвай палаты ў Кіеве, членам камісіі пры Нар. сакратарыяце асветы. Па пытаннях дзярж. будаўніцтва, асветы (утварэння Бел. ун-та) выступаў з публікацыямі ў газ. «Вольная Беларусь», «Белорусское слово», «Белорусское эхо». У 1919 у Новачаркаску, затым у Керчы, дзе па яго ініцыятыве арганізаваны філіял Сімферопальскага ун-та. У 1920—22 праф. Харкаўскага ун-та і выкладчык Ін-та нар. гаспадаркі, кансультант Наркамата знешняга гандлю Украіны. У 1922—25 у Баку, прарэктар ун-та і прафесійнага політэхнічнага ін-та, начальнік Упраўлення прамысловасці і гандлю Наркамата прамгандлю Азербайджанскай ССР, заснавальнік і дырэктар с.-г. і гандл.-прамысл. музея Азербайджана. З жн. 1925 да 1.9.1926 праф. кафедры гісторыі Беларусі пед. факультэта БДУ, старшыня гіст.-археагр. камісіі Інбелкульта, супрацоўнік Дзяржплана БССР. Пасля асуджэння ідэалаг. ўстановамі рукапісу Д.-З. «Гісторыя Беларусі» (люты 1926) быў вымушаны пакінуць Мінск. Выкладаў у Цімеразеўскай с.-г. акадэміі і Ін-це нар. гаспадаркі імя Г.В.Пляханава ў Маскве, быў эканам. дарадцам Массавета. У 1929 у сувязі з упамінаннем імя Д.-З. ў судовай справе рас. гісторыкаў «Платонава—Тарле», расправай з «нацдэмаўшчынай» на Беларусі не пазбег завуаліраванай формы рэпрэсій: заблакіравана абранне яго акадэмікам саюзнай і Украінскай АН і паскораны выхад на пенсію. Апошнія гады жыцця працаваў у НДІ пушнінафутравай гаспадаркі Наркамата знешняга гандлю СССР, вывучаў праблемы прамысл. кааперацыі і саматужна-маст. промыслы.

Першай навук. публікацыяй «Беларускае мінулае» (1888), змешчанай у газ. «Минский листок», Д.-З. заклаў асновы нац. канцэпцыі гісторыі Беларусі. У гэтым жа годзе апублікаваў «Статыстычныя нарысы Паўночна-Заходняга краю», у якіх даследаваў пытанні тэрыторыі і насельніцтва Беларусі, нар. адукацыю, зямельную ўласнасць, сельскую гаспадарку, фабрычна-заводскую прамысловасць, саматужныя промыслы, а таксама першую этнаграфічную працу «Беларускае вяселле і вясельныя песні». У кнізе «Каляндар Паўночна-Заходняга краю на 1889 год» пад рэдакцыяй Д.-З. ставілася задача адраджэння бел. этнічнай самасвядомасці, аб'ектыўнага навук. пазнання Беларусі; змешчаны яго артыкулы «Беларуская гаворка», «Нарысы па гісторыі Беларусі: (ад пачатку да смерці Уладзіміра Манамаха)», «Кароткі геаграфічны нарыс старажытнай Беларусі (у IX—XII стст.)», «Статыстычныя звесткі аб Паўночна-Заходнім краі» і інш. матэрыялы. У 1890—95 на матэрыялах этнаграфіі і фальклору вывучаў розныя аспекты духоўнага жыцця беларусаў. У час. «Живая старина», «Этнографическое обозрение», губернскіх ведамасцях надрукаваў шэраг даследаванняў пра сямейны побыт, звычаёвае права, вераванні («Беларускае вяселле ў культурна-рэлігійных перажытках», «Пахавальныя абрады беларусаў», «Рытуальнае значэнне каравайнага абраду ў беларусаў», «Абрады, гульні, танцы, прыпеўкі Мінскай губерні», «Юрыдычнае значэнне шлюбу на Беларусі», «Нарысы сямейнага звычаёвага права сялян Мінскай губерні», «Адносіны беларуса да зямлі» і інш.). У 1893—95 рабіў практычныя захады для арганізацыі «Беларускага гуртка», мэтай якога было згуртаванне інтэлектуальных сіл Беларусі для даследавання яе духоўнага і вытворчага патэнцыялу.

У 2-й пал. 1890-х г. Д.-З. звярнуўся да гісторыі ВКЛ. Напісаў рэцэнзію на кн. П.Дз.Бранцава «Гісторыя Літоўскай дзяржавы са старажытных часоў», апублікаваў працы «Да гісторыі Люблінскай уніі», «З гісторыі літоўска-польскай барацьбы за Валынь: (Дагаворы 1366 г.)», «Літоўскія ўпамінкі татарскім ордам», «Літоўскі скарб і татарскія орды ў 1502—1509 гг.», «Берасцейскае стараства ў XVI ст.». Выдаў зборнікі крыніц *«Дакументы Маскоўскага архіва Міністэрства юсты-*



*цый»* (т. 1, 1897), *«Акты Літоўска-Рускай дзяржавы»* (вып. 1, 1899; т. 2, 1897), *Баркулабаўскі летапіс* (1898, 1908), матэрыялы якіх паслужылі даследчыцкай базай для напісання магістэрскай дысертацыі «Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах» (1901) і доктарскай «Нарысы па арганізацыі заходнярускага сялянства ў XVI ст.» (1905). У гэтых працах, заснаваных на вял. архіўным матэрыяле, даследаваў сац.-эканам. адносіны ў ВКЛ у 14—16 ст. У 1905—07 вывучаў грамадскую думку Расіі ў яе гіст. развіцці, станаўленне ідэі свабоды; выдаў працы «Палітычныя ідэалы М.М.Сперанскага», «З гісторыі грамадскіх плыняў у Расіі», «Таемнае таварыства дзекабрыстаў» і інш. Даследаваў гісторыю сялянства ў Беларусі і Расіі (манаграфіі «Заходнеруская сялянская абшчына ў XVI ст. », 1897; «Старонка з гісторыі прыгоннага права ў XVIII—XIX стст. », 1906; «На заранку сялянскай свабоды», 1911), феад. гаспадарку ВКЛ, становішча розных катэгорый сельскага насельніцтва, аграрную рэформу 1557, стан рамяства і гандлю ў гарадах. Праблемам эканомікі прысвяціў працы «Гісторыя рускай народнай гаспадаркі» (т. 1, 1911), «Агляд гісторыі гаспадарчага жыцця Расіі» (1914), шэраг артыкулаў. Выдаў таксама даследаванні «Украінскія старасты ў першай палове XVI ст.» (1908), «Агляд навейшай рускай гісторыі» (т. 1—2, 1912—18). Рэцэнзаваў кнігі гісторыкаў І.І.Лапы, М.Ф.Уладзімірскага-Буданава, В.Савіча, І.І.Ігнатовіча, В.І.Сергіевіча, прысвечаныя пераважна розным праблемам гісторыі ВКЛ, бел., укр. і літ. народаў, выдаў 10 зборнікаў прац студэнтаў гіст.-этнагр. гуртка ў Кіеве, якім кіраваў. Свае адносіны да адбудовы бел. дзяржаўнасці выказаў у эсэ «Жрэбій кінуты!» (надрукаваны ў працы А.Цвікевіча «Кароткі нарыс пра ўзнікненне Беларускай Народнай Рэспублікі», 1918) і ў навук.-публіцыстычным нарысе «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919), у якім на падставе аналізу гіст., эканам. і моўна-этнагр. фактараў абгрунтаваў права бел. народа на суверэннасць.

У бакінскі перыяд жыцця працаваў над актуальнымі пытаннямі развіцця эканомікі, механізмамі рыначнай эканомікі і цэнаўтварэння, апублікаваў шэраг прац па гэтых праблемах. У час знаходжання ў Мінску спалучаў даследаванне эканомікі і грамадскай гісторыі Беларусі. Апублікаваў манаграфію «Народная гаспадарка Беларусі 1864—1914 гг.», раздзел «Беларуская ССР і Заходняя вобласць РСФСР» у кнізе «Эканамічная геаграфія СССР» (1926), разгорнутае даследаванне «Сацыяльна-эканамічная структура Літоўска-Беларускае дзяржавы ў XVI—XVIII сталецціях», гіст. даведку «Да юбілею беларускага кнігадруку» ў «Гісторыка-археалагічным зборніку» Інбелкульта (1926). У друку выступаў па пытаннях дынамікі гаспадарчага развіцця рэспублікі, яе раянавання. Закончыў абагульняльнае даследаванне «Гісторыя Беларусі», у якой разгледзеў шляхі, пройдзеныя бел. народам ад эпохі першабытнага ладу да пач. 1920-х г. (у 1926 рукапіс у друк не трапіў). Вял. значэнне Д.-З. надаваў публікацыі архіўных дакументаў і матэрыялаў, на старонках перыяд. друку даказваў неабходнасць выдання Метрыкі ВКЛ як фундаментальнай крыніцы для вывучэння айч. гісторыі, пісаў пра стараж. бел. архівы за межамі БССР. Як старшыня гіст.-археаграфічнай камісіі Інбелкульта падрыхтаваў праект выдання «Беларускі архіў», 2 тамы якога выдадзены пры непасрэдным удзеле Д.-З.

*Тв.*: Белорусская свадьба и свадебные песни. Киев, 1888; Белорусское Полесье: Сб. этногр. материалов. Вып. 1. Киев, 1895; Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия. Киев, 1891; Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1; Спорные вопросы в истории Литовско-Русского сейма. СПб., 1901; Очерки по организации западнорусского крестьянства в XVI веке. Киев, 1905; Исследования и статьи. Т. 1. Киев, 1909; Старыя беларускія архівы за межамі БССР // Працы 1-га з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі 17—18 студзеня 1926 г. Мн., 1926; Асновы Дзяржаўнасьці Беларусі. Городно, 1919 (2 выд. Мн., 1994); Гісторыя Беларусі. Мн., 1994; История Белоруссии. Мн., 2003.

*Літ.*: Пичета В. Новейшая история Белоруссии в зарубежной историко-политической литературе // Вестн. нар. комиссариата просвещения. 1921. № 1; Даўгяла З.І. Літаратурныя працы доктара рускай гісторыі М.В.Доўнар-Запольскага ў хронолёгічным парадку за 45 год (1883—1928) // Зап. аддз. гуманіт. навук БАН. Мн., 1929. Кн. 8. Працы класа гісторыі, т. 3; Сакові ч А. Прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі // Веда (Нью-Йорк). 1952. № 7; Бандарчык В.К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964; Иоффе Э.Г. Из истории белорусской деревни: (Сов. историогр. соц.-экон. развития бел. деревни середины XVII — первой половины XIX века). Мн., 1990; Шумейко М.Ф. Неопубликованная монография М.В.Довнар-Запольского «История Белоруссии» как историографический источник // Наш радавод. Гродно, 1991. Кн. 3, ч. 1; Палонская-Васіленка Н. Доўнар-Запольскі // З гісторыяй на «Вы». Мн., 1994. Вып. 3; Ануш А.Г., Кручок П.С. Мітрафан Доўнар-Запольскі. Мн., 1995; Михальченко С.И. М.В.Довнар-Запольский: историк и общественный деятель // Вопр. истории. 1993. № 6; Яго ж. Киевская школа в российской историографии: (В.Б.Антонович, М.В.Довнар-Запольский и их ученики). М.; Брянск, 1997; Даследчык гісторыі трох народаў: М.В.Доўнар-Запольскі: (Зб. навук. артыкулаў і дакументаў). Гомель; Рэчыца, 2000; Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі: Біяблііягр. паказальнік / Скл. В.У.Скалабан, В.М.Лебедзева і інш. Мн., 2001; Трэція Міжнародныя Доўнараўскія чытанні, г. Рэчыца, 14—15 верасня 2001 г. Мн., 2002; Лебедева В.М., Скалабан В.В., Шумейко М.Ф. М.В.Довнар-Запольский и его наследие // Довнар-Запольский М.В. История Белоруссии. Мн., 2003; Герасименко Н.О. Історична спадщина М.В.Довнар-Запольського (1864—1934) // Український історичний журнал. 2003. № 6; 2004. № 1; Чацвёртыя Міжнародныя Доўнараўскія чытанні. Ч. 1—2. Гомель, 2004.

***Арсень Ліс.***

**драбы,** назва пехацінцаў у ВКЛ, пераважна ў 16 ст. Першапачатково Д. вербаваліся толькі на прынцыпах найму, найчасцей за мяжой — у Польшчы, Чэхіі, Германіі і г.д. З 2-й пал. 15 ст. вядомы 2 катэгорыі Д. — павезнікі, узброеныя вял. пяхотнымі шчытамі, і стральцы, забяспечаныя арбалетамі ці ручной агнястрэльнай зброяй. У канцы 15 ст. да іх далучыліся капійнікі ў пласцiністых даспехах, узброеныя коп'ямі ці алебардамі. У 1560-х г. Д. з'явіліся ў складзе паспалітага рушэння. На Віленскім сойме 1563 і Гарадзенскім сойме 1567 прыняты пастановы, паводле якіх у початах землеўладальнікаў на 2 «ездных» (коннікаў) мусіў прыпадаць адзін Д. «з ручницею и з мечом, албо с кордом, або теж з рогатиною а з сокерою». Аднак на практыцы поўнай уніфікацыі ўзбраення Д. паспалітага рушэння дасягнуць не ўдалося. У часы панавання Стафана Баторыя была праведзена вайсковая рэформа. Замест ранейшых катэгорый Д. уведзена пяхота, арганізаваная на венгерскі і нямецкі ўзор. Першая ўзбройвалася шаблямі, сякеркамі і кнотавымі ручніцамі (афіцэры мелі за-



мест іх кароткія коп'і), другая — доўгімі пікамі ці кнотавымі мушкетамі. У гэты час выкарыстоўвалася і замежная пяхота — уласна нямецкая, забяспечаная пікамі, мушкетамі і двухручнымі мячамі; венгерская, дзе ўжываліся ручніцы і пікі, і інш.

*Літ.*: Górski K. Historia piechoty polskiej. Kraków, 1893; Nowak T., Wimmer J. Dzieje oręża polskiego. Warszawa, 1968; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. Warszawa, 1982; Саганові ч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994; Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV—канца XVI ст. Мн., 2002; Яго ж. Арганізацыя найманых аддзелаў у Вялікім княстве Літоўскім у XV—XVI стст. // Спадчына. 2002. № 4.

***Юрась Бохан.***

**Драгічын** (Drohiczyn), горад у Рэспубліцы Польшча, гл. *Дарагічын*.

**Драгічын**, горад у Рэспубліцы Беларусь, цэнтр Драгічынскага р-на Брэсцкай вобл., гл. *Давячоравічы*.

**другі падзел Рэчы Паспалітай**. Ажыццёўлены Рас. імперыяй і Прусіяй у змове з кансерватыўнай прадажнай арыстакратыяй Рэчы Паспалітай паводле Пецярбургскай канвенцыі 12(23).1.1793.

Падрыхтоўка падзелу непасрэдна звязана са спробамі *Чатырохгадовага сойма 1788—92* скасаваць прывілеяванае становішча шляхты і пашырыць яе вольнасці на інш. саслоўі, што было ўвасоблена ў *Канстытуцыі 3 мая 1791*. Канстытуцыя абяцала асабістую свабоду кожнаму, «хто толькі адной нагой ступіць на польскую зямлю», што, як разлічвалі рэфарматары ў сойме, прыцягне з Рас. імперыі сялян у запланаванае 100-тысячнае войска. Гэта выклікала вял. занепакоенасць Пецярбурга. Рэформы сустрэлі процідзеянне прыхільнікаў нязменнасці саслоўнага ладу Рэчы Паспалітай. Частка кіруючых колаў разам з каралём Станіславам Аўгустам Панятоўскім імкнулася ажыццявіць рэформы пры апоры на Прусію, скарыстаўшы занятасць Расіі войнамі са Швецыяй (1788—90) і Турцыяй (1787—91). Кароль Прусіі Фрыдрых Вільгельм II, заняты барацьбой з рэвалюцыйнай Францыяй, узамен патрабаваў г. Гданьск, Торунь і інш. землі. Акружэнне Станіслава Аўгуста Панятоўскага пераарыентавалася на заключэнне саюзу з рас. імператрыцай Кацярынай II. Аднак Пецярбург і Берлін павялі тайныя перагаворы аб расчляненні Рэчы Паспалітай для пакрыцця расходаў у войнах. Сойм Рэчы Паспалітай у 1790 прыняў закон аб непадзельнасці і неадчужальнасці тэрыторыі дзяржавы і ўвёў пакаранне за хабар і дзеянні на карысць замежных дзяржаў. Апазіцыя ў адказ стварыла *Таргавіцкую канфедэрацыю* (1792) і папрасіла Кацярыну II дапамагчы аднавіць перадсоймавую сістэму *кардынальных правоў*, гарантам якіх царыца была паводле соймавых канстытуцый 1768 і 1775. 11.5.1792 Кацярына II увяла 64-тысячнае войска на чале з ген.-аншэфам М.М.Крачэтнікавым, якому даручалася «заняць як мага хутчэй і больш княства Літоўскага», каб не дапусціць у імперыю абвешчаную соймам «вольнасць паміж сялянамі» (гл. *Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай 1792*). Загадзя падрыхтаваныя ў ВКЛ канфедэрацыі шляхты імкнуліся юрыдычна надаць захопніцкаму паходу характар вызваленчай місіі. Але яны аказаліся маласілкія і не змаглі ўзаконіць паліт. гегемонію царызму над усёй Рэччу Паспалітай. Па гэтай прычыне Кацярына II адхіліла планы адасаблення ВКЛ ад Польшчы (Кароны) шляхам дынастычнай уніі княства з Рас. імперыяй. Таргавічане пабаяліся склікаць сойм Рэчы Паспалітай з-за пагрозы адказнасці за расчляненне дзяржавы і 15.6.1792 утварылі Генеральную вольную канфедэрацыю ВКЛ на чале з канцлерам А.Сапегам (з 8.8.1792 — лоўчым ВКЛ Ю.Забелам), якая 8.9.1792 злучылася ў Берасці з Кароннай канфедэрацыяй (на чале з Шчэнсным Патоцкім). 23.1.1793 Расія і Прусія заключылі тайную Пецярбургскую канвенцыю для скасавання Канстытуцыі 3 мая 1791 і аб супольных дзеяннях на выпадак узбр. супраціўлення анексіі тэр. Рэчы Паспалітай. 27.3.1793 яны абвясцілі акты аб акупацыі вызначаных доляў (разам 308 тыс. км²). Прусія анексіравала частку Мазовіі, Кракаўскага ваяв., амаль усю Вял. Польшчу, гарады Гданьск, Торунь. Расія заняла Правабярэжную Украіну, а таксама часткі Полацкага, Віцебскага, Менскага ваяв., якія засталіся пасля *першага падзелу Рэчы Паспалітай*, частку Навагародскага, Берасцейскага і Віленскага ваяв. (да лініі Друя—Пінск з г. Барысаў, Менск, Слуцк, Нясвіж, Тураў, Пінск; усяго 250 тыс. км² з 13 млн. ж.). Станіслава Аўгуста Панятоўскага прымусілі падтрымаць Генеральную канфедэрацыю і склікаць *Гарадзенскі сойм 1793*, які ратыфікаваў падзельныя трактаты з Расіяй і Прусіяй і 25.9.1793 саступіў анексіраваную частку ВКЛ на вечныя часы Рас. імперыі. На гэтых тэрыторыях былі ўтвораны Мінская, Ізяслаўская і Брацлаўская губерні пад намесніцтвам Крачэтнікава.

*Літ.*: Szujski J. Dzieje Polski podług ostatnich badań. T. 4. Lwów, 1866; Иловайский Д. Гродненский сейм 1793 года: Последний сейм Речи Посполитой. М., 1870; Костомаров Н.И. Последние годы Речи Посполитой. Т. 1—2. 3 изд. СПб., 1886; Тимощук В.В. Польская конституция 3-го мая 1791 г. и отношение к ней России // Русская старина. 1904. № 4; Lord R.H. Drugi rozbiór Polski. Warszawa, 1984; Zielińska Z. Ostatnie lata Pierwszej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1986; Cegielski T., Kądziela Z. Rozbióry polskie 1772—1793—1795 r. Warszawa, 1990.

***Яўген Анішчанка.***

**Другі статут Вялікага княства Літоўскага**, гл. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*.

**Дружчыц** (Друшчыц) Васіль Данілавіч [27.1(8.2).1886, в. Блудзень Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер в. Першамайская Бярозаўскага р-на—20.12.1937], беларускі гісторык. Скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча (1901), вучыўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі (1901—07), скончыў гісторыка-філал. факультэт Юр'еўскага (Тартускага) ун-та (1911). У 1911—12 працаваў выкладчыкам гісторыі ў Вільні, Шаўлях, Рэчыцы, Бабруйску. Удзельнічаў у працы Бел. культурна-асветнага т-ва ў Бабруйску. З 1922 выкладчык, з 1927 праф. гісторыі Беларусі БДУ, адначасова з 1924 правадзейны член Ін-та бел. культуры (Інбелкульта), з 1927 старшыня камісіі Інбелкульта па гісторыі гарадоў. З 1933 супрацоўнік Ін-та гісторыі Бел. АН, праф. кафедры гісторыі народаў СССР Літаратурнага ін-та імя А.І.Герцэна (Масква). 14.1.1937 арыштаваны, 19.12.1937 асуджаны ваен. калегіяй Вярх. суда СССР да выключнай меры пакарання. Расстраляны ў Мінску. 5.6.1958 ваеннай калегіяй Вярх. суда СССР рэабілітаваны. Даследаваў гісторыю Беларусі эпохі феадалізму, пераважна магдэбургскае права ў бел. гарадах 15—18 ст. Вывучаў гісторыю бел. кнігадрукавання. Прыйшоў да высновы, што магдэбургскае права, запазычанае ў Зах. Еўропе, не давала гатовай формы для арганізацыі гар. улады на Беларусі. Гэта права не проста пераймалася ў ням. ці польскіх гарадах, а пэўным чынам



выпрацоўвалася на месцы, пры актыўным удзеле гар. насельніцтва, якое імкнулася прыстасаваць запазычаныя формы права і арганізацыі ўлады да сваіх інтарэсаў. У арт. «Галоўныя моманты гісторыі беларускага народу» адным з першых назваў ВКЛ Літоўска-Беларускай дзяржавай, адзначыў, што Полацкая і Віцебская землі ўвайшлі ў яе склад добраахвотна. Адначасова выказаў думку, што з пачатку ўтварэння ВКЛ мела бел. характар, абгрунтоўваў гэта тым, што бел. элемент пераважаў у культ. адносінах, «беларуская мова з'яўлялася мовай дыпламатычных зносін, мовай пісьменства, заканадаўства і ўсяго культурнага жыцця». У 1925—26 удзельнічаў у падрыхтоўцы да выдання «Навуковага зборніка гісторыка-археалагічнай камісіі» і зборніка гіст. дакументаў і матэрыялаў *«Беларускі архіў»*.

*Тв.*: Галоўныя моманты гісторыі беларускага народу // Беларусь. Мн., 1924; Палажэньне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасьля Люблінскай вуніі // Працы БДУ. 1925. № 6—7; Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. // Там жа. 1926. № 12; Места Вільня ў першай палове XVI сталецьця // Чатырохсотлецьце беларускага друку. Мн., 1926; Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры // Гістарычна-археолёгічны зборнік. Мн., 1927. № 1; Да пытаньня аб мове літоўскага статуту // Там жа; Казімір Лышчынскі — беларускі бязбожнік XVII в.: (З гісторыі сьветапогляда ў XVII в. на Беларусі) // Полымя. 1927. № 2; Войты і іх улада ў беларускіх гаспадарскіх местах з Майдэборскім правам // Зап. аддзелу гуманітарных навук Інбелкульта. Мн., 1928. Кн. 3; Магістрат у Беларускіх местах з Майдэборскім правам у XV—XVII сталецьцях // Зап. аддзелу гуманітарных навук БАН. Мн., 1929. Кн. 8.

*Літ.*: Іофе Э. Летапісец айчыннай гісторыі // Літаратура і мастацтва. 1986. 14 лют.

***Сцяпан Якушэвіч.***

**Друйскі замак.** Існаваў у 14—18 ст. у г. *Друя*. Размяшчаўся ў сутоках рэк Друйка і Дзвіна. Па некаторых звестках спачатку замак князёў Масальскіх знаходзіўся на левым беразе Друйкі, на тэр. т.зв. Старога места, а пасля 1515 перанесены на правы бераг. З тактычнага пункту гледжання размяшчэнне замка было не вельмі ўдалым. Ён не мог заняць нізкі і малы выступ каля ўпадзення Друйкі ў Дзвіну, таму што апошні вясной пастаянна затапляўся. З У над выступам узвышалася гара, якая пры заняцці яе праціўнікам магла быць выкарыстана для ўстаноўкі артылерыі і абстрэлу замка. Пасля 1515 было вырашана збудаваць замак на гэтым узвышшэнні, але і тут для ўмацавання не лепшае месца, бо амаль з усіх бакоў былі доўгія і пакатыя схілы, зручныя для атак праціўніка, а Дзвіна і Друйка знаходзіліся на значнай адлегласці ад замка. Тым не менш *Полацкая рэвізія 1552* зафіксавала Друйскі «замок спольный» князёў Масальскіх на левым беразе Дзвіны. «Замок оборонный» абкружыла мястэчка. Пра структуру замкавых умацаванняў у дакуменце не паведамляецца. Роля Д.з. ў *Інфлянцкай вайне 1558—82* не высветлена, хоць тут у 1561 і размяшчаўся конны атрад. Перамірны ліст 1594 паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай называе Д.з. ужо сярод замкаў Падзвіння. У гіст. крыніцах за 1594 сустракаецца ўпамінанне аб «опалом замку Друйском», што сведчыць пра стан умацаванняў таго часу. У ходзе ваен. падзей 17—18 ст. замак зведаў шматлікія аблогі і штурмы, неаднаразова разбураўся і спальваўся. Пасля *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* быў адноўлены на левым беразе Дзвіны, але магутнасцю не вылучаўся. У 18 ст. паступова прыйшоў у заняпад. У наш час сляды ўмацаванняў замка схаваны пад шчыльнай гар. забудовай. Археал. даследаванні Д.з. праводзілі ў 1972 М.А.Ткачоў, у 1986—88 В.Я.Зайцава.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Міхась Ткачоў.***

**Друйскі кляштар бернардзінцаў**, помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1643—46 у г. *Друя* па фундацыі падканцлера ВКЛ К.Л.Сапегі. Комплекс уключае касцёл, кляштарны корпус, браму з агароджай. Троіцкі касцёл — мураваная 3-нефавая 1-вежавая базіліка з апсідным завяршэннем цэнтр. нефа (унутры гранёны, звонку паўцыркульны). Да выцягнутага прэсбітэрыя з Пд прылягае прамавугольная ў плане сакрыстыя. На гал. фасадзе тарцы бакавых нефаў закрыты невял. аб'ёмамі з пластычнымі абагульненымі валютамі над імі, тарцы цэнтр. нефа — масіўнай 4-яруснай чацверыковай вежай-званіцай, завершанай купалам (дабудавана ў 1772). Бакавыя сцены і апсіда рытмічна расчлянёны вертыкальнымі контрфорсамі. Аконныя праёмы з паўцыркульнымі завяршэннямі. Інтэр'ер аздоблены ордэрнай пластыкай, лепкай у тэхніцы стука. Скляпенні захавалі першапачатковы дэкор 17 ст. ў выглядзе ляпных геаметрычных кесонаў. Галоўны 2-ярусны алтар з прасторавай групоўкай калон і пілястраў, разарваным антаблементам і дынамічнай аб'ёмнай скульптурай у стылі позняга барока выкананы ў 1764—67, амбон і 4 бакавыя алтары з элементамі стылю ракако — у 1779. З Пн да касцёла прылягае 2-павярховы будынак кляштара, які ўтварае прамавугольны замкнёны двор, з 3 бакоў абкружаны калідорам. Фасады фланкіраваны вял. квадратнымі ў плане памяшканнямі на вуглах. Вокны прамавугольныя. Ансамбль дапоўнены муравайнай арачнай агароджай з брамай (пабудавана ў 1778). З 1852 касцёл стаў прыходскім. Каля 1947 закрыты. У 1989 перададзены вернікам.

***Тамара Габрусь.***

**Друцк** (цяпер вёска ў Талачынскім р-не Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Аршанскім пав. Віцебскага ваяв., на р. Друць. Упершыню ўпамінаецца пад 1092. З 2-й пал. 12 ст. цэнтр *Друцкага княства*, з 1-й пал. 14 ст. ўвайшоў у ВКЛ, уладанне князёў *Друцкіх*. Як «літоўскі» горад упамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.). Пасля таго як Свідрыгайла ў 1396 нечакана захапіў Віцебск, Вітаўт адправіўся яго вызваляць. Па дарозе яго войска заняло Д. і Вітаўт прымусіў «княжат друцких с боярами своими» прысягнуць яму. Легенда, змешчаная ў «Хроніцы Быхаўца», апавядае пра Ягайлу і Вітаўта, якія, вяртаючыся з паходу на Смаленск, заехалі ў Д. Тут польскі кароль упершыню ўбачыў Соф'ю Гальшанскую (дачку роднай сястры Сямёна Друцкага — Аляксандры, жонкі Андрэя Гальшанскага) і адбыліся заручаны. У 1506 крымскі хан Махмет Гірэй напаў на Д., дзе «много зла сотворил». У 1508 у час мяцяжу князя Глінскага і падыходу да Д. маск. войска «князи друцкия здалися и з городом и крест целовали, что им служити великому князь московскому» упусцілі ў горад ваяводу В.І.Шамячыча. У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* у 1514 і *вайну Вялікага княства Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37* у 1535 Д. разрабаваны маск. войскамі. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 у складзе Аршанскага пав. Віцебскага ваяв. Да 17 ст. праз Д. праходзіў прамы шлях на Маскву. У 2-й пал. 16 ст. Д. апісаў А.*Гваньіні* ў «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі». У канцы 17 ст. праз Д. праязджаў сакратар пасольства Свяшчэннай Рымскай імперыі І.Г.Корб,



які ў сваёй кнізе «Дзённік падарожжа ў Масковію» пісаў: «Гавораць, што ў мінулым стагоддзі гэты горад меў 7 міль у акружнасці і славіўся 200 знакамітымі храмамі, але ў час жорсткай вайны... быў настолькі спустошаны, што да яго стасуецца плач паэта на развалінах Трої: дзе стаяў Пергам, там цяпер хвалюецца калоссе». М.Ткачоў лічыў, што горад, відаць, заняпаў у сярэдзіне 17 ст.

*Літ.*: Память: Гіст.-дак. хроніка Талачынскага р-на. Мн., 1988; Друцк старажытны: Да 1000-годдзя ўзнікнення горада. Мн., 2000.

***Валерый Грынявецкі.***

**Друцкае Евангелле**, помнік старажытна-беларускай пісьменнасці. Напісана на мяжы 14—15 ст. Рукапіс — Евангеліе апракас поўны. Змест кнігі: евангельскія чытанні з Вялікадня да Вял. суботы, месяцаслоў, евангеллі ранішнія нядзельныя. Пісаны 8 пісцамі уставам у 2 слупкі на 188 аркушах пергаменту.



**Друцкае Евангелле**.
Пачатак Евангелля ад Іаана.

На 1-м аркушы ўверсе застаўка, ёсць 54 ініцыялы тэраталагічнага стылю, выкананыя кінавар'ю з дробнай дэталёўкай жоўтай фарбай. Прыпіскі на палях 1-га аркуша — сінодзік, пералік мужчынскіх і жаночых імён для памінання ў царкве (магчыма, гэта члены роду князёў *Друцкіх*). Пасля асноўнага тэксту почыркам пісца кнігі зроблена вял. прыпіска, дзе паведамляецца, што ў 6909 г. пабудавана царква Багародзіцы ў Друцку, у якую уклаў Д.Е. князь Васіль Міхайлавіч з жонкай Васілісай; далей пералічаны княжацкія наданні царкве. Асаблівасці напісання года (перадача 900 праз літару Ф, а не «юс малы» або Ц) тлумачыцца змяшаннем лічбавага значэння літар «фіта» (9) і Ф (500), якія мелі аднолькавае гучанне. Ранейшае чытанне года як 6509 (1001) цяпер адкінута як супярэчнае гістарычным рэаліям. Год 6909 «ад стварэння свету» адпавядае часу 1.9.1400—31.8.1401 або 1.3.1401—28.2.1402 (у залежнасці ад таго, вераснёўскім або сакавіцкім стылем карыстаўся пісец). Іншая прыпіска паведамляе, што ў 6949 г. (1441) віленскі мешчанін Конан уклаў Д.Е. ў Васкрасенскую царкву ў Вільні. Паводле вусных паведамленняў, да 1944 рукапіс належаў уніяцкаму мітрапаліту Іосіфу Сліпаму. Пасля кніга была ў зборы акад. М.М.Ціхамірава, які завяшчаў яго Сібірскаму аддзяленню Акадэміі навук. Цяпер зберагаецца ў Дзярж. публічнай навукова-тэхнічнай б-цы Сібірскага аддзялення Рас. АН у Новасібірску (паступіла ў 1965). У 2001 Д.Е. апублікавана факсімільным спосабам з фотакопіі, што захоўваецца ў Цэнтр. навук. б-цы Нац. АН Беларусі.

*Літ.*: Тихомиров М.Н. Описание Тихомировского собрания рукописей. М., 1968; Друцк летапісны. Друцкае евангелле. Мн., 2001; Лосева О.В. Русские месяцесловы XI—XIV веков. М., 2001; Сводный каталог славяно-русских рукописных книг, хранящихся в России, странах СНГ и Балтии: XIV век. Вып. 1. М., 2002; Панин Л.Г. Друцкое евангелие XIV в.: (К исследованию языка и состава чтений) // Вестник НГУ. Серия: история, филология. Новосибирск, 2003. Т. 2, вып. 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**Друцкае княства.** Існавала ў 12—16 ст.; адзін з удзелаў, на якія ў 12 ст. распалася *Полацкае княства*. Утворана, магчыма, пасля смерці Усяслава Брачыславіча (1101) як удзел яго сына Барыса. Не выключана, што з Д.к. вылучылася *Свіслацкае княства*, вядомае з 2-й пал. 13 ст. Непасрэдных звестак пра Д.к. ў 13—пач. 14 ст. няма. Мабыць, там правіла мясц. дынастыя, якая ў 1-й пал. 14 ст. трапіла ў васальную залежнасць ад *Гедзіміна* ці яго сына *Альгерда*. Пасля заняцця Альгердам велікакняжацкага пасада (1345) Д.к. ўвайшло ў ВКЛ. У 2-й пал. 14—1-й пал. 15 ст. яно ахоплівала абшар паміж Барысаўскай вол. на З, Лукомскім княствам і Аболецкай вол. на Пн, Аршанскай і Копыскай вол. на У, Цяцерынскай вол. на Пд (часткі сучасных Талачынскага, Крупскага і Круглянскага р-наў). З 2-й пал. 15 ст. Д.к. пачало распадацца ў сувязі з падзелам яго тэр. паміж асобнымі галінамі князёў *Друцкіх*. Маёнткі Багрынава, Гольцава, Шыйка адышлі да вял. князя (магчыма, у якасці вымарачнай маёмасці кагосьці з Друцкіх) і былі нанова падараваны князям *Адзінцэвічам*. *Друцкі замак* заставаўся ў сумесным валоданні ўсіх князёў Друцкіх. З канца 15 ст. ў выніку згасання некат. галін Друцкіх іх долі ў Д.к. перайшлі да іншых родаў: маёнтак Падбярэззе — да князёў Ямантавічаў, Зубрэвічы і, магчыма, Бобр — да Гаштольдаў, Варанцэвічы — да Іллінічаў, Дудаковічы, Коханава, Стараселле і Талачын — да Гарнастаяў і Сапегаў. Ва ўласнасці князёў Друцкіх засталіся толькі асобныя рэшткі Д.к. (Азерцы, Арава, Відзенічы, Саколіна). У 16 ст. Д.к. канчаткова ператварылася ў кангламерат самастойных феад. вотчын. Пасля адм. рэформы ВКЛ 1565—66 яго тэрыторыя цалкам уключана ў *Аршанскі павет*.

*Літ.*: Друцк старажытны: Да 1000-годдзя ўзнікнення горада. Мн., 2000.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Друцкі замак.** Існаваў у 14—17 ст. ў г. *Друцк*. Меў складаную сістэму абароны, якую ўтваралі замак і падзамак. Замак размяшчаўся на правым беразе р. Друць, меў у плане форму няправільнага прамавугольніка, што паўтарала канфігурацыю занятага замкам узвышэння (натуральнага і насыпнога). Амаль гарызантальная пляцоўка замчышча (140 × 80 м) узвышалася над узроўнем ракі на 22 м і была абнесена магутным валам (і цяпер дасягае вышыні 10 м), мела перад сабой абарончы роў, які ў паўд. частцы даходзіў да 12 м, у зах. — да 6 м глыбіні. Паўкруглую пляцоўку падзамка (170 × 100 м) таксама акружаў вал вышынёй каля 7 м. З боку поля яна адрэзана ад астатняй часткі берагавога плато дугападобным ровам, за якім, абгінаючы ўмацаванні з Пн, З і У, знаходзіўся горад. Звесткі пра «Горны» (Верхні) і «Дольны» (Ніжні) замак ёсць у дакументах за 1545 і 1549. «Списанье замку Друцкого», складзенае, відаць, у сярэдзіне 16 ст., называе некалькі ўладальнікаў Д.з., якія мелі тут свае часткі «держанья»: стараста ашмянскі Багдан Азярэцкі, князі Любецкія з панам Харлінскім, князі Саколінскія і паны Падбярэзскія. Паведамляецца таксама пра павіннасці жыхароў навакольных маёнт-



каў Дудаковічы, Сакольня, Талачын, Круглае, Канапельчыцы, Коханава, Сянно і інш., якія выконвалі сваю частку «городовой работы» і ў ваен. час шукалі паратунку ў Д.з., дзе мелі свае гародні. Можна сцвярджаць, што друцкія ўмацаванні будавалі сяляне, але невядома, колькі і з якіх сёл. Паводле «Списанья...», яны ўзводзілі «Горны» замак Друцка, дзе ў той час стаялі 4 вежы, у т.л. вежа-брама, 80 гародняў і 2 дамы паміж імі. Апісанне Д.з. ёсць у «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі» А.Гваньіні: «Адруцка — замак на гары высокай, драўляны, некалі быў княствам, цяпер многа шляхты рускай тытул гэтага княства ўжывае». На картах Еўропы за 1562, 1589, 1595 і 1613 замак «Одруцк» пастаянна пазначаўся ўмоўным значком. Д.з. заняпаў, відаць, у сярэдзіне 17 ст. У дакументах перыяду вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 пра Д.з. не ўпамінаецца. Зах.-еўрапейскі дыпламат І.Г.Корб, які ў канцы 17 ст. быў у Друцку, у сваім дзённіку пазначыў: «Кажуць, што ў мінулым стагоддзі гэты горад меў 7 міль у акружнасці і славіўся 2000 знакамітымі храмамі, але ў час жорсткай вайны... зведаў такое спусташэнне, што да яго можна аднесці словы аб тым, аб чым плача паэт над развалінамі Трої: дзе стаяў Пергам — там цяпер калоссе».

*Літ.*: Малиновский И. Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского. Томск, 1901. С. 219; Алексеев Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966. С. 151, 158; Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32. С. 110; М., 1980. Т. 35. С. 125—126.

***Міхась Ткачоў.***

**Друцкія**, княжацкі род герба «Друцк» (у чырвоным полі сярэбраны меч, абапал ляза папарна размешчаныя гарызантальна 4 залатыя паўмесяцы рожкамі насустрач). Род паходзіць, відаць, ад полацкага кн. Барыса Усяславіча. Яго сын Рагвалод Барысавіч пасля паражэння ў 1161 у барацьбе за полацкі пасад замацаваў за сабой *Друцкае княства*. У 1180 у летапісах упамінаецца яго сын Глеб Д., у 1186 — другі сын Усяслаў Д. Сынам аднаго з іх, напэўна, быў Барыс Д. (1197), пасля якога звесткі пра князёў Д. надоўга знікаюць. У 16 ст. адна з генеалагічных легенд падавала паходжанне роду Д. ад міфічнага кіеўскага кн. Дзмітрыя, які нібыта ўцёк у Друцк ад Батыя, другая — ад валынскага князя 13 ст. Аляксандра Усеваладавіча Белзскага. У легендарнай частцы бел.-літоўскіх летапісаў ёсць яшчэ некалькі няпэўных паведамленняў пра князёў Д. У 1-й пал. 14 ст. кн. Васіль Міхайлавіч Д. зрабіў запіс у *Друцкім Евангеллі*, а кн. Іван Д. пакінуў вотчыну і ў 1339 служыў маскоўскаму кн. Івану І Каліце. Паводле больш позняга радаводу ў Васіля быў брат Сямён, абодва мелі сыноў з аднолькавым імем Дзмітрый. Адзін з іх быў васалам вял. кн. Альгерда ў час яго вайны з Маскоўскім княствам у 1372. Ён жа, відаць, ажаніўся з дачкою кн. Алега Іванавіча Разанскага Настассяй, якая пасля яго смерці (каля 1380) выйшла замуж за кн. Карыбута (Дзмітрыя), пасынак якога Андрэй Д. загінуў у *бітве на Ворскле 1399*. У гэтай бітве таксама ўдзельнічалі 4 сыны Дзмітрыя Сямёнавіча: Сямён, Іван, Міхаіл Падбярэзскі, Аляксандр (трое апошніх таксама загінулі). Сямён Дзмітрыевіч упамінаецца ў 1401—22; выхоўваў дачку сваёй сястры *Соф'ю* Гальшанскую, якая ў 1422 выйшла замуж за польскага караля Ягайлу. Меў 6 сыноў, самы малодшы Міхаіл Лобан загінуў у 1435, не пакінуўшы нашчадкаў. Астатнія сыны сталі заснавальнікамі асобных галін роду Д.:

Іван (Баба; каля 1385—пасля 1436), сын Сямёна. Магчыма, быў полацкім намеснікам (1409). Актыўны прыхільнік Свідрыгайлы ў час яго барацьбы супраць Жыгімонта Кейстутавіча, у 1431 уваходзіў у склад яго рады (пад адным з дзярж. актаў захавалася выява яго пячаткі — прататып больш позняга герба «Друцк»). Пасля перамогі Жыгімонта Кейстутавіча ў 1436 выехаў у Пскоў, потым у Маскву разам з малодшымі сынамі Іванам, Васілём і Сямёнам Бабічамі, якія засталіся на маскоўскай службе. Старэйшыя сыны Канстанцін (каля 1410—каля 1442) і Фёдар (каля 1410—пасля 1446) засталіся ў ВКЛ. Сын Канстанціна Андрэй Прыхабскі (каля 1440—да 1515) валодаў маёнткамі Прыхабы ў Аршанскім і Обаль у Віцебскім пав., быў намеснікам аршанскім да 1505. Перажыў сваіх братоў і сыноў дзядзькі Фёдара, пасля чаго яго спадчына адышла да дачок. Фёдар Бабіч выслужыў у вял. князя Казіміра маёнткі Драчалукі і Вярхоўе ў Віцебскім пав. Меў сыноў Сямёна, Фёдара Каноплю, Васіля Шчарбатага і Івана, якія ў 1466 падаравалі сяло Рыдамль Друцкага княства Чарэйскаму манастыру. Ад Сямёна пайшоў род кн. *Друцкіх-Саколінскіх*, ад Фёдара — *Друцкіх-Канопляў*, ад Івана — *Друцкіх-Азярэцкіх*.

Іван (Пуцята; каля 1390—пасля 1440), сын Сямёна. Разам з братам уваходзіў у раду Свідрыгайлы ў 1431 і пазней, калі Свідрыгайла быў валынскім князем. Верагодна, набыў маёнткі Горы і Басея ў Аршанскім пав., якія пазней перайшлі да яго нашчадкаў. Меў сыноў Міхаіла, Васіля, Дзмітрыя і Івана Пуцяцічаў, магчыма, яшчэ аднаго, дачка якога пазней унесла Падбярэззе каля Друцка і частку Басеі ў род князёў Ямантавічаў. Ад Міхаіла Пуцяціча пайшоў род *Друцкіх-Талачынскіх*, ад Васіля — *Друцкіх-Горскіх*.

Рыгор (?—?), сын Сямёна. Упамінаецца разам з бацькам у 1422. Меў сына Васіля, які быў жанаты з дачкою валынскага баярына Алізара Шылавіча з роду Кірдзеяў. Сястра Алізара Федка, удава пана Юршы, у 1488 завяшчала з дазволу вял. князя маёнтак Любча на Валыні сынам Васіля — Багдану і Раману, ад апошняга пайшоў род *Друцкіх-Любецкіх*.

Дзмітрый (Мітка, Сякіра; каля 1400—пасля 1444), сын Сямёна. Ад назвы маёнтка Зубрэвічы ў Аршанскім пав. пісаўся кн. Зубрэвіцкі. Валодаў таксама Быхавам, Добаснай каля Рагачова, Асцёрам у Кіеўскім пав. і інш. Яго дачка Марына (каля 1425—1495) выйшла замуж за кн. Сямёна Сямёнавіча Гальшанскага-Трабскага, пасля смерці якога доўгі час валодала вотчынамі мужа і бацькі. Перажыўшы адзіную дачку, жонку Марціна Гаштольда, завяшчала свае ўладанні ўнуку Альбрэхту Гаштольду. Магчыма, у Дзмітрыя была яшчэ адна дачка, пасля якой частка Друцкага княства і Камарычы каля Быхава адышлі ў род князёў Мошкаўскіх, які згас у пач. 16 ст.

Васіль (Красны; каля 1410—1448), сын Сямёна. Пры вял. князю Свідрыгайлу намеснік віцебскі. Быў жанаты з сястрой кн. Фёдара Варатынскага, меў сына Івана Краснага (каля 1450—пасля 1516), які валодаў Бабром і Сакаловічамі ў былым Друцкім княстве, першы раз быў жанаты з Марыяй, дачкой кн. Сямёна Кобрынскага, другі — з Марыяй, дачкой кн. Івана Юр'евіча Заслаўскага і ўдавой кн. Багдана Фёдаравіча Глінскага. На ім гэта галіна Д. скончылася.

Дзмітрый (каля 1440—1505), сын Івана Пуцяты. Намеснік мцэнскі (1486), бранскі (1487—88), ваявода кіеўскі (з 1492). Нашчадкаў не пакінуў.

Іван (каля 1440—пасля 1516), сын Івана Пуцяты. Гараднічы луцкі (1487),



падстараста (1493) і ключнік луцкі (1496), наместнік перамільскі (1506—07). Меў адзінага сына Багдана (1475?—да 1516), спадчына якога адышла да дачок.

*Літ.*: Wolff J. Kniazowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895; Насевіч В.Л. Род князёў Друцкіх у гісторыі Вялікага княства Літоўскага (XIV—XVI стст.) // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992; Яго ж. Друцкае княства і князі Друцкія // Друцк старажытны: Да 1000-годдзя ўзнікнення горада. Мн., 2000; Варонін В. Друцкія князі XIV стагоддзя // Беларускі гістарычны агляд. 2002. Сш. 1—2.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Друцкія палі**, гісторыка-археалагічная памятная мясціна вакол г. *Друцка* і *Друцкага замка*. Уключае абодва берагі р. Друць у раёне стараж. волака сярод курганных могільнікаў і селішчаў 10—18 ст. Мела выгляд ворнай раўніннай паверхні, пазбаўленай лясоў. Д.п. знаходзіліся на скрыжаванні важных гандлёвых і ваен. шляхоў на Пн (Полацк, Віцебск, Пскоў, Ноўгарад), У (Смаленск, Масква), Пд (Магілёў, Чарнігаў, Кіеў), З (Барысаў, Менск, Вільня, Каралявец, Варшава). У 14—16 ст. Д.п. былі пунктам збору або войска ВКЛ, якое бараніла ўсх. землі княства, або войска Маскоўскай дзяржавы, што накіроўвалася ў глыб Беларусі. Адсутнасць лясоў рабіла Д.п. зручнымі для канцэнтрацыі і прывядзення ў належны стан вял. колькасці войск, якія кантралявалі скрыжаванне стратэгічна важных шляхоў, дазваляла праводзіць патрэбныя тактычныя манеўры, адкрывала шлях для аператыўнай прасторы. Так, напярэдадні *Аршанскай бітвы 1514* бел.-літ. летапісы зафіксавалі на Д.п. рас. палкі колькасцю «осьмдесять тысячей». У дакументах за 1524 паведамляецца, што «неприятель москвитин собирался идти под Витебск, и под Кричев, и Оршу, або под Могилев, або под Дубровну, а тыи замки обогнавши, ити бы имели к Друцким полям, делаючи шкоду панству нашому чого же им Боже не помози». У разгар *Інфлянцкай вайны 1558—82* павінны былі «стягнутися на полях Друцких» у 1564 пасланыя Іванам IV 80 тыс. войска ваяводы П.Сярэбранага з 50 «тысячмя комонников» ваяводы П.Шуйскага. У 1566, «на Святую Троицу», на Д.п. збіралася войска ВКЛ, каб прадоўжыць вайну. Пасля *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* Д.п. страцілі сваё значэнне.

*Міхась Ткачоў.*

**Друцкія-Азярэцкія**, княжацкі род, адгалінаванне *Друцкіх*. Карысталіся гербам «Друцк». Найб. вядомыя:

Іван Бабіч (?—?), сын Фёдара Іванавіча Бабіча; заснавальнік роду. Упамінаецца ў 1476, пазней прыняў удзел у *Глінскіх мяцяжы 1508*, пасля яго паражэння разам з М.Глінскім пераехаў у Расію. Яго сыны Андрэй і Сямён ад маёнтка Азерцы каля Друцка пісаліся князямі Азярэцкімі.

Андрэй (каля 1480—1558), сын Івана. Староста аршанскі з 1547. Валодаў таксама часткай Худава і Новым Сялом у былым *Друцкім княстве*. У 1551 атрымаў ад вял. князя Дусяты ў Браслаўскім пав. Меў сыноў Васіля (каля 1510—1582), Багдана (каля 1520—1601), Івана і Міхаіла (памерлі маладымі); унук Васіль Васілевіч (памёр у 1607) — апошні з Д.-А.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Друцкія-Горскія**, княжацкі род, адгалінаванне *Друцкіх*. Карысталіся гербам «Друцк». Найб. вядомыя:

Васіль Пуцяціч (каля 1430—да 1495), сын Івана Пуцяты; заснавальнік роду. Валодаў часткай *Друцкага княства* і маёнткам Горы ў Аршанскім пав. Меў 5 сыноў. Юрый і Дзмітрый у час *бітвы на Вядрошы 1500* трапілі ў маскоўскі палон (у Дзмітрыя застаўся сын Фёдар), Міхаіл і Аляксандр (Алелька) памерлі пасля 1499, не пакінуўшы нашчадкаў. Іван Дуда (каля 1460—каля 1515) валодаў маёнткам Дудаковічы каля Друцка, ад якога яго сыны часам называліся князямі Дудакоўскімі. Уладзімір (каля 1490—1545) быў намеснікам ашмянскім (1515—20). Ён, яго браты Фёдар (каля 1500—30) і Іван (каля 1500—пасля 1551) не мелі дзяцей, спадчына іх адышла да сястры Аўдоцці (каля 1500—58), удавы Б.М.Храптовіча. Далей род Д.-Г. працягваўся толькі ад сына Дзмітрыя Васілевіча — Фёдара (каля 1480—каля 1540), які ад маёнтка Бурнеўка пад Друцкам называўся кн. Бурнеўскім. Валодаў таксама маёнткам Арава, быў жанаты з далёкай сваячкай князёўнай Ганнай Андрэеўнай Друцкай-Прыхабскай. Меў сыноў Абрама і Рыгора, якія сталі заснавальнікамі асобных галін Д.-Г.

Абрам (каля 1520—70), сын Фёдара; заснавальнік асобнай галіны роду Д.-Г. Валодаў часткай маёнткаў Горы і Арава, якую яго ўдава затым аддала ў заклад Багдану Друцкаму-Саколінскаму. Сын Абрама Юрый у час *Інфлянцкай вайны 1558—82* трапіў у палон, у якім заставаўся яшчэ ў 1583. У 1596 набыў у саўладальніка Гор Л.Сапегі частку маёнтка, якую, напэўна, пазней прадаў яму ж. У 1600 прадаў частку Аравы стрыечнаму брату Фёдару. Загінуў у час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* пры аблозе ў 1609 Троіцкай лаўры. Нашчадкаў не пакінуў.

Рыгор (каля 1510—60), сын Фёдара; заснавальнік асобнай галіны роду Д.-Г. Уладальнік Бурнеўкі і часткі маёнткаў Арава і Горы. Праз шлюб з князёўнай Тамілай Багданаўнай Заслаўскай набыў Лошыцу пад Менскам. Меў сыноў Пятра, Фёдара, Стафана і Яна. Пётр (каля 1545—да 1582) быў спадчыннікам Лошыцы, яго род згас у 3-м калене ў сярэдзіне 17 ст. Фёдар (каля 1550—1615) — удзельнік Інфлянцкай вайны. У 1589 атрымаў на ленным праве Цэльскае старства (частка былой Свіслацкай вол.), праз шлюб з князёўнай Марыяй Вішнявецкай набыў суседнія Багушэвічы і Дзякшняны ў Менскім пав. Ян (каля 1560—1619) быў аршанскім маршалкам з 1605. У гэтым пакаленні адбыўся пераход Д.-Г. з праваслаўя ў каталіцтва.

Рыгор Ежы (каля 1585—1659), сын Фёдара Рыгоравіча. Староста цэльскі па бацьку, староста аршанскі (1635—50), пасля смерці стрыечнага брата Ежы захапіў частку Аравы і Палесся, якая была пад апекай Альжбеты Ломскай. Атрымаўшы прызначэнне мсціслаўскім ваяводам (1650), перадаў Аршанскае старства сыну Міхалу, які праз год памёр. Другі яго сын Еранім быў старастам суражскім. Малодшы сын Тэадор Кароль (?—да 1715) меў сыноў Казіміра і Міхала Антонія, на якіх род Д.-Г. згас.

Ежы (каля 1600—43), сын Яна. Харужы аршанскі (1639), староста ўпіцкі (1640). Валодаў часткай маёнткаў Арава і Палессе ў Аршанскім пав., якія пасля яго смерці перайшлі да брата Стафана (псіхічнахворага, апекунамі якога былі сястра Альжбета і яе муж Ю.Ломскі).

*Вячаслаў Насевіч.*

**Друцкія-Каноплі**, княжацкі род, адгалінаванне *Друцкіх*. Карысталіся гербам «Друцк». Пісаліся таксама Саколінскімі-Каноплямі. Найб. вядомыя:

Фёдар (Канопля; ?—?), сын Фёдара Іванавіча Бабіча; заснавальнік роду. Упамінаецца разам з братамі ў 1466. Праз шлюб з дачкой віцебскага баярына Сенькі



Чарэйскага набыў частку маёнткаў Чарэя і Тухачоў, якія затым адышлі да яго дачкі Федкі, жонкі Б.Сапегі, і далі пачатак чарэйскай вотчыне Сапегаў. Валодаў таксама доляй у Друцку і бацькоўскім маёнтку Драчалукі (Віцебскі пав.).

Фёдар (?—?), сын Фёдара Каноплі. Праз шлюб з дачкой В.Лукомскага атрымаў частку маёнтка Пірошыцы ў *Лукомскім княстве*, якая пазней адышла ў пасаг яго дачцэ Лізавеце, жонцы Ф.Уладыкі. Прыняў удзел у *Глінскіх мяцяжы 1508*, пасля паражэння якога пераехаў у Маскву. З яго сыноў Іван дзіцем быў схоплены татарамі ў час набегу 1505 і памёр у палоне, Фёдар памёр таксама маладым, Канстанцін (1496?—1530) пакінуў адзіную дачку Багдану, Леў (1503?—1550) памёр апошнім з Д.-К. Родавыя вотчыны (Канапельчыцы і часткі Саколіна і Драчалукаў) адышлі да Багданы (каля 1520—84), дачкі Канстанціна, жонкі кн. П.Лукомскага, якая пасля яго смерці ў 1547 узяла шлюб з І.І.Сапегам.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Друцкія-Любецкія**, княжацкі род, адгалінаванне *Друцкіх*. Карысталіся гербам «Друцк». Сыны Васіля Рыгоравіча Друцкага Багдан (каля 1450—да 1500) і Раман атрымалі паводле завяшчання ўдавы пана Юршы маёнтак Любчу на Валыні. Валодалі таксама часткай *Друцкага княства* з Загароддзем, Худавам і Відунічамі (Відзенічамі), таму некат. прадстаўнікі роду называліся князямі Відуніцкімі. Найб. вядомыя:

Раман (каля 1450—да 1525), сын Васіля; заснавальнік роду. Праз шлюб з Багданай Сапяжанкай атрымаў Алексінічы ў Аршанскім пав. і Койтаў каля Віцебска. Меў 5 сыноў і дачку. Яго старэйшы сын Васіль (каля 1490—1535) валодаў часткай Любчы, Койтава і Худава. Нашчадкаў не пакінуў. Другі сын Дзмітрый Відуніцкі (каля 1500—58) ажаніўся з Фенкай Полазаўнай, удавой кн. І.Сенскага і спадчынніцай вял. вотчын баяр Полазаў на Кіеўшчыне. У 1545 прадаў сваю частку Відуніч брату Івану. Пасля яго смерці адзіны сын Богуш (каля 1530—64) атрымаў кіеўскія вотчыны, а маёнтак Худава адышоў да пасынка — кн. Р.І.Сенскага і яго сястры Багданы. Багдан Раманавіч (каля 1500—46) быў жанаты з Соф'яй Давойнаўнай, што дазволіла яго сыну Янушу (каля 1530—58) атрымаць частку спадчыны згаслага роду Давойнаў — маёнтак Лунін у Пінскім пав., валодаў таксама Відунічамі і Койтавам. Іван (каля 1510—67) валодаў Любчай і Загароддзем, набыў у брата Дзмітрыя Відунічы. Яго сын Рыгор памёр маладым у 1596, унук Павел у пач. 17 ст. быў суддзёй земскім луцкім, меў вотчыны на Валыні. Апошні сын Рамана Януш (каля 1520—48) нашчадкаў не пакінуў. Дачка Ганна (каля 1510—71) была жонкай М.Дуброўскага (памёр у 1537), А.Няпрэцкага (памёр каля 1545), М.Ю.Осціка (памёр у 1564, яго сваякі абвінавацілі Ганну ў атручэнні мужа) і П.Ю.Друцкага-Саколінскага. Па маці атрымала ў спадчыну Алексінічы і частку Чарэі, у 1555 выкупіла Койтаў у свайго пляменніка Януша Багданавіча. Усе гэтыя маёнткі пазней адышлі да яе дачкі Ганны Осцікаўны, жонкі кн. Л.А.Сангушкі-Кашырскага.

Мікалай (каля 1630—да 1678), відаць, сын Івана Паўлавіча, падстарасты аршанскага (1625—34), праўнук Януша Багданавіча. Валодаў маёнткамі Лунін і Пагост у Пінскім пав., праз шлюб з Крысцінай Статкевіч-Заверскай набыў вял. маёнтак Любавічы ў Аршанскім пав. Меў сыноў Шымана і Багдана Казіміра.

Шыман (каля 1665—1710), сын Мікалая. Стольнік оўруцкі (1709), перад смерцю прызначаны менскім кашталянам. Яго адзіны сын Юзаф быў жанаты з Даротай Асалінскай, якой завяшчаў Любавічы.

Францішак (каля 1735—1806), сын Юзафа, унук Багдана Казіміра. Суддзя земскі (1765), харужы (1773) і маршалак (1782) пінскі, у 1793 заняў новаўтвораную пасаду пінскага кашталяна, якая пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай скасавана. У 1794 заснаваў мураваны касцёл у Луніне. У 1799 набыў у Сапегаў маёнтак Чарлёну ў Гродзенскім пав. Меў сыноў Ануфрыя (каля 1770—1802), маршалка пінскага (1799), Караля (1775?—1811), маршалка пінскага (1802), Ераніма (каля 1780—1823) і Францішка Ксаверыя (1778—1846), міністра скарбу Царства Польскага (1821).

***Вячаслаў Насевіч.***

**Друцкія-Саколінскія**, Друцкія-Сакалінскія, княжацкі род, адгалінаванне *Друцкіх*. Карысталіся гербам «Друцк». Найб. вядомыя:

Сямён (?—пасля 1514), сын Фёдара Бабіча; заснавальнік роду. Намеснік таропецкі (1489), бранскі (1492—94), уладальнік Саколіна каля Друцка, часткі Драчалукаў у Віцебскім пав., Крывіна і Несіна, у 1508 разам з сынам выслужыў Бабчу, Камень, Ладасну і інш. ў Чарсвяцкай вол., у 1511 — Непаротавічы (усе ў Полацкім пав.). У 1514 трапіў у маскоўскі палон, дзе і памёр. Меў сыноў: Юрыя (каля 1470—да 1530), Васіля (каля 1480—1533), Андрэя (каля 1490—1546), ад іх сыноў пайшлі асобныя галіны Д.-С.; Івана (?—да 1524), што валодаў Гарадцом, часткай Крывіна і Несіна (адышлі да яго дачкі Ганны, жонкі кн. Ю.Ц.Масальскага), а таксама часткай Грушкі (Ігрушкі) у былым *Друцкім княстве*, якую падараваў Кіева-Пячэрскаму манастыру.

Павел (каля 1500—75), сын Юрыя. Ротмістр ВКЛ, маршалак аршанскі з 1569. Уладальнік часткі Саколіна, Бабчы, Каменя, Бешанковіч, у 1565 атрымаў на ленным праве маёнткі Лугінавічы і Рубеж у Полацкім пав. Заснавальнік галіны ленных уладальнікаў Лугінавічаў.

Цімафей (каля 1510—85), сын Юрыя. Маршалак аршанскі з 1575. Быў жанаты з Аўдоцццяй Баратынскай, уладальніцай часткі Пірошыц у *Лукомскім княстве* і Мейшаголы ў Віленскім пав. У 1563 абвінавачаны родзічамі швагра Івана Баратынскага ў яго забойстве. Валодаў часткай Бешанковіч, Крывіна і інш. Яго сын Яраслаў памёр раней за бацьку, унук Яраслаў Яраславіч (каля 1570—пасля 1621) — падваявода полацкі, у яго былі 4 сыны: Ян Казімір (каля 1600—пасля 1647), канонік смаленскі, потым віленскі; Мікалай Мітрафан (каля 1610—90), базыльянскі браслаўскі архімандрыт, уніяцкі смаленскі архіепіскап з 1671; Юрый (?—?) у 1654 перайшоў у рас. падданства і стаў заснавальнікам рас. галіны Д.-С., якая захавалася да пач. 20 ст.; Яраслаў (?—пасля 1676) застаўся ў ВКЛ.

Юрый (?—1605), сын Паўла. Падкаморы віцебскі, у 1577 за заслугі ў *Інфлянцкай вайне 1558—82* атрымаў пасаду азярышчанскага і ўсвяцкага старасты. У 1591 уступіў Л.Сапегу сваю долю ў Драчалуках і Вярхоўі ўзамен за яго долю ў Саколіне, у 1597 перадаў Усвяцкае староства малодшаму сыну Яраславу (атрымаў зноў пасля яго смерці ў 1601), а Азярышчанскае — родзічу Міхаілу Д.-С.

Ян (каля 1570—1649), сын Юрыя Паўлавіча. Маршалак аршанскі з 1622. У 1646 прадаў Саколіна кн. Ю.Галоўчынскаму.



Геранім Альбрэхт (каля 1600—58), сын Яна. Пісар земскі аршанскі з 1646. Купіў у пана Календы Мерач у Троцкім пав., валодаў таксама Стоўбцамі і Мхерынам у Аршанскім пав.

Міхал Кароль (каля 1630—8.10.1690), сын Геранімa Альбрэхта. Чашнік (1654) і маршалак (1665) аршанскі, пісар ВКЛ з 1672. У 1685 атрымаў у леннае валоданне Вяляціцкае староства (частка былой Барысаўскай воласці), якое перадаў сыну.

Кароль Міхал (каля 1660—1713), сын Міхала Караля. Кашталян смаленскі з 1703. Апошні ленны ўладальнік Лугінавіч і Вяляціч, праз шлюб з Евай Шверынавай набыў Даўгінава ў Ашмянскім пав., у 1692 купіў у К.Сапегі суседняе Ілле. Пераэжыў адзінага сына Міхала. Пасля яго смерці ленныя маёнткі адышлі да дзяржавы, вотчынныя былі падзелены паміж дочкамі Барбарай (жонка А.Скарульскага) і Кацярынай (жонка К.Валовіча).

Міхаіл (каля 1510—пасля 1559), сын Васіля Сямёнавіча; заснавальнік асобнай галіны Д.-С. Уладальнік Саланевічаў, часткі Крывіна і Каменя, у 1556 купіў Стравенікі ў Літве. Яго сын Васіль (у каталіцтве Вацлаў; ?—каля 1600) быў маршалкам полацкім (1591).

Міхаіл Міхайлавіч (каля 1550—1621), сын Міхаіла. Ротмістр ВКЛ, маршалак аршанскі (1591), кашталян віцебскі (1605), ваявода полацкі (1613). У 1597 атрымаў у леннае валоданне Азярышчанскае староства. Быў спачатку кальвіністам, у канцы жыцця прыняў каталіцтва, перад самай смерцю назначаны смаленскім ваяводам.

Крыштоф Міхал (каля 1580—1639), сын Міхаіла Міхайлавіча. Сакратар ВКЛ з 1607, пасля бацькі староста азярышчанскі, кашталян мсціслаўскі (1623), полацкі (1625). У 1639 перадаў Азярышчанскае староства зяцю Крыштофу Статкевічу, захаваў у якасці лена сёлы Казьяны, Роўнае, Тарапчаны і інш., якія потым перайшлі да яго сына Казіміра Леана (каля 1610—57). Пасля смерці сына Казіміра — Антонія ў 1676 маёнткі Бабіна, Камень-Астроўна ў Полацкім, Тулава ў Віцебскім пав. і інш. перайшлі да сястры апошняга Крысціны (спярша жонка С.Раецкага, потым М.Нарбута).

Філон (?—да 1634), сын Міхаіла Міхайлавіча. Праз шлюб з Ядвігай Няміраўнай, удавой М.Зяновіча, атрымаў Трабскае староства ў Ашмянскім пав., якое перайшло да яго сына Яна Антонія (?—1662), кашталяна мсціслаўскага з 1655. Ён валодаў таксама Тулавам, якое завяшчаў сынам сваіх стрыечных братоў (сыноў Крыштофа Міхала). Апошнімі прадстаўнікамі гэтай галіны Д.-С. былі Фларыян (каля 1650—да 1699), сын Крыштофа Януша і ўнук Крыштофа Міхала, падчашы аршанскі з 1689, і яго сыны Казімір (?—пасля 1700) і Леан Лаўрэн (каля 1680—1726), архімандрыт Гарадзенскага базыльянскага манастыра з 1713, уніяцкі смаленскі архіепіскап з 1718.

Багдан (?—?), сын Андрэя; заснавальнік асобнай галіны Д.-С. Валодаў Гарадцом у Полацкім пав. і часткай Крывіна.

Андрыяш (Андрэй; каля 1530—пасля 1582), сын Андрэя. Пісар земскі аршанскі, уладальнік часткі Бешанковіч, праз шлюб з Раінай Корсак набыў маёнтак Сянно.

Януш (?—пасля 1606), сын Багдана. Войскі віцебскі (1597), падсудак і падкаморы полацкі (1606). Валодаў маёнткам Камень-Астроўна, які ў 1630 быў прададзены яго сынам Стафанам Каралём, падкаморым полацкім, стрыечнаму дзядзьку Яну Андрыяшавічу.

Самуэль Станіслаў (каля 1600—каля 1660), сын Януша. Смаленскі падваявода (1634) і падкаморы (1637), валодаў шэрагам маёнткаў у Смаленскім ваяв.

Казімір Самуэль (?—1669), сын Самуэля Станіслава. Пасля захопу Смаленшчыны рас. войскамі прыняў рас. падданства і праваслаўе пад імем Пятра Самойлавіча, стаў заснавальнікам другой рас. галіны Д.-С.

Вінцэнт Станіслаў (?—пасля 1677), сын Самуэля Станіслава. Суддзя земскі віцебскі (1672). Застаўся ў падданстве ВКЛ, атрымаў у спадчыну па родзічу Яну Антонію Д.-С. частку Тулава. Нашчадкаў не пакінуў.

Ян (?—1630), сын Андрыяша. Дваранін і сакратар вял. князя ВКЛ, пісар ВКЛ з 1608, рэферэндар ВКЛ у 1630. Вызначыўся ў час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* у паходзе ў Расію 1611—13. У 1613 атрымаў староствы Даўгоўскае і Пералайскае, пазней Мсціслаўскае, Радамскае і Старадубскае. У канцы жыцця набыў у стрыечнага пляменніка Стафана Караля маёнтак Камень-Астроўна, які затым быў прададзены яго дачкой Элеанорай (жонка М.А.Хлявіцкага) іншаму родзічу — Крыштофу Міхаілу Д.-С. (нашчадку Міхаіла Васілевіча). У 1631 Элеанора разам з мужам прадалі Л.Сапегу Сянно і Бешанковічы.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Друцкія-Талачынскія**, княжацкі род, адгалінаванне *Друцкіх*. Карысталіся гербам «Друцк». Заснавальнік роду Міхаіл (?—?), сын Івана Пуцяты, ад маёнтка Шышава ў Горскай вол. пісаўся князем Шышаўскім. Яго сын Юрый (?—пасля 1522) ад маёнтка Талачын у *Друцкім княстве* пачаў пісацца князем Талачынскім. Сын апошняга Васіль (каля 1480—1546), староста гомельскі (1536), аршанскі (1538), валодаў Талачыном, часткай Басеі і Шышавам, у спадчыну па родзічу Дз.Пуцяцічу набыў таксама Радчу, Стараселле і Коханава ў Друцкім княстве. Не пакінуў нашчадкаў, яго ўладанні былі падзелены паміж удавой, Марыяй Багданаўнай Заслаўскай (пазней — жонка І.Гарнастая), сёстрамі Людмілай (жонка Ю.Храптовіча) і Настассяй (жонка Р.Гарасімовіча).

*Вячаслаў Насевіч.*

**Друя** (цяпер гар. пасёлак у Браслаўскім р-не Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Браслаўскім пав. Віленскага ваяв., на левым беразе Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Друйка. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» М.Стрыйкоўскага пад 1386, калі князь Андрэй Альгердавіч выступіў супраць заключэння Крэўскай уніі 1385 і «Полацк, Дрысу, Друю, Лукомль і немалую частку Русі з дапамогай крыжакоў апанаваў». Некат. даследчыкі звязваюць з Д. Новы замак Полацкай зямлі, які знаходзіўся за 11 міляў ад Дынабурга (цяпер г. Даўгаўпілс, Латвія) і ўпамінаецца ў «Хроніцы» Германа Вартберга (14 ст.). У 1377 Новы замак вытрымаў аблогу крыжакоў, якія выкарыстоўвалі асадныя машыны і гарматы. У скарзе на дзеянні крыжакоў, складзенай у 1413, сярод пацярпелых мясцовасцей згадваецца «de Drucha villa». У 14—15 ст. Д. — умацаваны пункт Полацкай зямлі, які належаў служылым людзям Полацкага замка. З 1496 уладанне князя Цімафея Масальскага, які атрымаў ад вял. князя Аляксандра прывілей на «места», *Друйскі замак* і друйскія воласці. 22.3.1506 Аляксандр даў Ганне Масальскай прывілей на Д., вёскі Залессе і Чурылавічы. Масальскія атрымалі таксама права свабоднага гандлю на Дзвіне. У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім*



*1512—22* спалена рас. войскамі. Паводле «Полацкай рэвізіі» 1552, Д. валодалі браты Іван і Юрый Масальскія. Івану належала 56 дымоў мяшчан і слуг, 26 дымоў «к замку людей отчизных» і 6 дымоў «людей вольных», 7 корчмаў; Юрыю — 48 дымоў мяшчан, вёскі Клін, Панізава, Чурылавічы; замак знаходзіўся ў сумесным уладанні. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 Д. ўвайшла ў склад Браслаўскага пав. Віленскага ваяв. У 1579 у Д. спыняўся кароль Стафан Баторый, які з войскам вяртаўся з-пад Пскова. У 1600 канцлер ВКЛ Л.Сапега набыў маёнткі Д., Дзедзін, Залессе і Чурылавічы, у 1611 — частку горада Д. Большая частка Д. засталася пад юрысдыкцыяй князёў Масальскіх. 8.8.1618 Ян Станіслаў Сапега падпісаў прывілей пра заснаванне побач з Д. новага горада Сапежына з разлікамператварыць яго ў значны абарончы, гандлёвы і рамесны цэнтр. Каб прывабіць на новае пасяленне майстроў, рамеснікаў і гандляроў, Сапега абяцаў ім пэўныя вольнасці на 20 гадоў. Паводле прывілея, горад атрымаў магдэбургскае права і герб: у блакітным полі віціна з разгорнутым ветразем на хвалях, вада сярэбраная. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34* у 1632 спалена рас. войскамі. Паводле інвентара 1643, Д. падзялялася на некалькі частак. Найб. старажытная размяшчалася ў вусці Друйкі. Тут налічваліся



Герб **Друі**.

103 дымы, існавалі вуліцы Браслаўская, Іказненская, Рынкавая, «ад ракі Друйкі», 3 вулачкі,царква Спаса. У Сапежыне (усх. частка) было 108 дымоў, рынак, ратуша з гадзіннікам, шпіталь, 2 дамы Сапегаў, касцёл св. Яна з кляштарам, царква Св. Духа, 8 вулачак. Побач знаходзілася прадмесце Сапежына з вуліцамі Вялікай і «ад перавозу», касцёлам Св. Тройцы, замкам, млыном, тартаком, 12 крамамі. Існавала таксама паўн. задзвінская частка Д. — Прыдруйск (цяпер Піедруя, Латвія), якая, відаць, узнікла ў 16 ст. Усяго ў Д. 306 дымоў, амаль 2 тыс. жыхароў, дзейнічала каля 100 корчмаў. У 17—18 ст. Д. была значным гандлёва-рамесным цэнтрам Віленскага ваяв. Тут існавала цэхавая арг-цыя рамеснікаў, была развіта вытворчасць кафлі і юхту. У 18 ст. праз горад праходзіў гандлёвы шлях з Таропца (Расія) у Каралявец (цяпер Калінінград), у 16—18 ст. існавала мытная служба. Важным заняткам насельніцтва была і сельская гаспадарка (у 1643 жыхары горада мелі 1200 моргаў зямлі). У 17—18 ст. Д. была адм.-эканам. цэнтрам латыфундыі Сапегаў (у 18 ст. звалася Друйскае графства). З Д. паходзіць адзін з шэдэўраў бел. рукапіснай кнігі — Друйскае Евангелле 16 ст. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* горад некалькі разоў вынішчаўся датла. Тут на шляху ў Рыгу прыпыняўся цар Аляксей Міхайлавіч, які прымаў у горадзе паслоў ад паветаў і ваяводстваў ВКЛ. У 1700 Аляксандр Сапега перадаў друйскія ўладанні барону Мантойфелю, з 1705 імі кароткі час валодалі Агінскія. Значныя страты прычынены Д. ў час *Паўночнай вайны 1700—21*. У 1725 у горадзе налічвалася толькі 116 дымоў. У 17—18 ст. тут пабудаваны *Друйскі кляштар бернардзінцаў* (1643—46), дамініканскі кляштар (1765—73), мураваная сінагога (1776); дзейнічалі таксама правасл. манастыр (канец 17—пач. 19 ст.), кляштар пры касцёле св. Яна (17 ст.) і інш. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Прыдруйск увайшоў у склад Рас. імперыі, у Д. размяшчаліся пагранічныя войскі Рэчы Паспалітай. У 1776 моцны пажар знішчыў у горадзе 125 дамоў. У 1790 у Д. 3,4 тыс. жыхароў, 488 драўляных дамоў, 13 камяніц, 6 заезных двароў. З канца 18 ст. тут існавала парафіяльная школа (у 1774 — 9 вучняў, у 1781 — 19, у 1782 — 16). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Д. ўвайшла ў склад Рас. імперыі.




*Літ.*: Шыдлоўскі К. Друя // Спадчына. 1990. № 2; Hedemann O. Historja powiatu brasławskiego. Wilno, 1930; Яго ж. Dzisna i Druja, magdeburskie miasta. Wilno, 1934.

***Кастусь Шыдлоўскі.***

**Дрыбін** (цяпер гарадскі пасёлак, цэнтр Дрыбінскага р-на Магілёўскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв. Вядома з 16 ст. як шляхецкая ўласнасць. У 17 ст. існаваў Новы Д. У сваім тастаменце Л.Сапега ад 9.7.1633 упамянуў вёску і пушчу Дрыбінскую. У Паўн. вайну 1700—21 у вер. 1708 у Д. размяшчаліся кавалерыйскія атрады рас. ген. Р.Х.Боўра. Пасля 1-га

падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Дрыбінскага р-на. Мн., 2004.

*Валерый Грынявецкі.*

**Дрыса** (цяпер Верхнядзвінск, горад, цэнтр Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), горад у Полацкім ваяв., пры ўпадзенні р. Дрыса ў Дзвіну. У «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» М.Стрыйкоўскага ўпамінаецца пад 1330 і 1386, аднак гэта інфармацыя не выклікае даверу. Першая надзейная гіст. звестка пра Д. датуецца 1517, калі яе згадаў у сваіх нататках С.Герберштэйн. У 1546 пабудаваны *Дрысенскі замак*. У 1547 прынята рашэнне пра заснаванне ў Д. лясной каморы. У пач. 1560-х г. Д. ўжо была прыкметным горадам, жыхары якога займаліся гандлем і сельскай гаспадаркай. У 1563 упамінаецца войт Юрый Мацяевіч. Да 1563 дрысенскім дзяржаўцам быў полацкі ваявода С.Давойна, а ў 1560—80-я г. — Я.Лопат. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* Д. апынулася ў зоне актыўных ваенных дзеянняў. Значную частку яе жыхароў у гэты час складала ваеннаслужылае насельніцтва — казакі. Соймавай канстытуцыяй 1641 у Д. было скасавана спагнанне прыватных мытных збораў. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654 захоплена рас., а ў 1655 шведскімі войскамі. У 1656, у час паходу на Рыгу, праз Д. праходзіла рас. армія на чале з царом Аляксеем Міхайлавічам. Відаць, у 1667 была вернута пад уладу Рэчы Паспалітай. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: M i e n i c k i R. Stanisław Dowojno wojewoda połocki // Ateneum Wileńskie. 1937. R. 12.

*Васіль Варонін.*

**Дрысвяцкі замак**. Існаваў у 14—17 ст. Размяшчаўся на востраве «Замак» на воз. Дрысвяты ў Браслаўскім пав. Пабудаваны на гарадзішчы днепрадзвінскай культуры і 10—13 ст. Пляцоўка замка (75 × 50 м) авальнай формы ўзвышаецца на 6—7 м над паверхняй возера і абкружана кальцавым валам. З напольных паўн. і ўсх. бакоў вышыня яго каля 5 м, з боку возера — 1—1,5 м. Ядро вала насыпана на мяжы новай эры. На працягу 10—16 ст. вал 4 разы падсыпаўся з выбрукоўкай унутр. схілу камянямі. У канцы 14—пач. 15 ст. на востраве стаяў двор Дрысвяты вял. князя Вітаўта, пазней — Аляксандра. У пісьмовых крыніцах замак згадваецца ў 1514, з 1542 ім валодаў маршалак ВКЛ Ян Юр'евіч Глябовіч. Захавалася апісанне замка за 1662: «на гары над возерам Дрысвяцкім ёсць 3 вежы без дахаў, апалыя, згнілыя, ёсць трошкі сцен з боку фальварка, але і тыя трухлявыя і разбураюцца». З агнястрэльнай зброі ўпамінаюцца 2 гакаўніцы, 1 штурмачок. Пад аховай замка на востраве стаялі двор і мястэчка Дрысвяты з рынкам, 3 вуліцамі, але без абарончых збудаванняў. З берагам злучалі 2 масты. У 2-й пал. 17 ст. Д.з. перастаў існаваць, а жыхары паселішча пасля пажару перабраліся з вострава на ўсх. бераг возера. Археал. даследаванні Д.з. праводзілі ў 1955—56 Л.В.Аляксееў, у 1970, 1976 і 1980 М.А.Ткачоў.

*Літ.*: Акты Виленской археографической комиссии. Вильна, 1908. Т. 33. С. 20—21; H e d e m a n n O. Historia powiatu brasławskiego. Wilno, 1930. S. 381; А л е к с е е в Л.В. Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966. С. 82.

*Міхась Ткачоў.*

**Дрысенскі замак,** драўляна-земляное ўмацаванне ў г. *Дрыса*, на мысе пры ўпадзенні р. Дрыса ў Дзвіну. Паводле «Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсёй Русі» М.Стрыйкоўскага, у 1386 быў узяты і спалены полацкім князем Андрэем Альгердавічам. Гэта значыць, што Д.з. быццам бы існаваў ужо ў 14 ст. Аднак больш верагодна, што ён заснаваны толькі ў 1546 полацкім ваяводам С.Давойнам для ўмацавання паўн. мяжы ВКЛ. У час абвастрэння адносін ВКЛ з Інфлянцкім ордэнам у 1556—57 у Д.з. стаяла наёмная рота на чале з ротмістрам Хелмскім. У 1559 праведзены рамонт Д.з. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* рас. войскі спрабавалі ўзяць яго. Да заканчэння вайны Д.з. заставаўся пад кантролем Рэчы Паспалітай. Адыгрываў важную ролю на памежжы з землямі Маскоўскай дзяржавы, у прыватнасці, у час паходу Стафана Баторыя на Полацк у 1579. У сувязі з заканчэннем вайны значэнне Д.з. паменшала. Прыйшоў у заняпад да сярэдзіны 17 ст.

*Літ.*: M i e n i c k i R. Stanisław Dowojno wojewoda połocki // Ateneum Wileńskie. 1937. R. 12.

*Васіль Варонін.*

**Дрэма** (Drėma) Владас (3.12.1910, г. Рыга—4.1.1995), літоўскі мастак, мастацтвазнавец. Ганаровы д-р Мастацкай акадэміі Літвы (1992). Скончыў Віленскі ун-т (1936). У 1932—36 і 1938—40 выкладаў малюнак у Вільні, у 1937—38 у Варшаўскім дзярж. ін-це рамёстваў. У 1941—44 гал. хавальнік Бел. музея ў Вільні. У 1946—61 заг. аддзела жывапісу Мастацкага музея Літвы, адначасова ў 1946—70 выкладаў у Мастацкім ін-це Літвы. У 1970—85 гал. навуковы мастацтвазнавец Ін-та кансервацыі і рэстаўрацыі помнікаў Літвы. Займаўся жывапісам, графікай (ілюстраваў кнігі бел. паэтаў А.Іверса і Л.Случаніна), перакладаў на літ. мову вершы М.Танка. Аўтар прац пра мастакоў Ф.Смуглевіча, К.Русецкага, В.Смакоўскага і інш., архітэктараў І.К.Глаўбіца, Л.Гуцэвіча і інш., помнікі архітэктуры Вільнюса. Нац. прэмія Літвы (1992).

*Тв.*: Nieznane materiały do działalności Wawrzyńca Gucewicza, Piotra Rossi, Tomasza Righi oraz Karola i Kazimierza Jelskich // Biuletyn historii sztuki. 1966. № 3/4; Sprawa nauczania architektury w Akademii Wileńskiej // Там жа; Pranciškus Smuglevičius. Vilnius, 1973; Materiały do historii sztuki Wielkiego Księstwa Litewskiego: Na marginesie «Słownika Jezuitów artystów» S.Bednarskiego, J.Poplatka, J.Paszendy. Kraków 1972 // Biuletyn historii sztuki. 1977. № 2; Materiały do historii sztuki Wielkiego Księstwa Litewskiego: Jan Krzysztof Glaubicz. Jan Hedel. Jan Melich // Там жа. 1980. № 1; Jerzy Ertli — budowniczy wileński // Там жа. 1980. № 2; Działalność artystyczna Eustachego Kotowicza // Там жа. 1987. № 3—4; Dingęs Vilnius. Lost Vilnius. Исчезнувший Вильнюс. Vilnius, 1991; Vilniaus Šv. Onos bažnyčia; Vilniaus katedros rekonstrukcija 1782—1801. Vilnius, 1991; Kanutas Ruseckas. Vilnius, 1996; Vilniaus Šv. Jono bažnyčia. Vilnius, 1997; Vladas Drėma — Stanisław Lorenz laiškai. Vilnius, 1998; Vilniaus namai archyvų fonduose. Kn. 1—7. Vilnius, 1998—2004; Vincentas Smakauskas. Vilnius, 2001.

**Дубінскі** Пётр (?—1794), віленскі купец, палітычны дзеяч ВКЛ, юрыст. Сын Тамаша Дубінскага, бурмістра, а пасля войта дарагічынскага. У 1768 прыняў юрысдыкцыю гар. права Вільні, запісаўшыся ў купецкую карпарацыю горада. З 1772 віленскі лаўнік, з 1773 радца, з 1780 бурмістр. Неаднаразова выконваў абавязкі гар. шафара і правізара шпіталя Св. Тройцы. У 1773 удзельнічаў у фарміраванні гар. гарнізона. У 1784 і 1793 пасол ад Вільні на соймы. У 1788 у Віленскай акадэмічнай друкарні выдаў кнігу «Збор правоў і прывілеяў, наданых сталічнаму гораду ВКЛ Вільні» («Zbiór praw i przywilejów, miastu stołecznemu W. X. L. Wilnowi

nadanych»). Зборнік ахоплівае важнейшыя акты, якія вызначалі юрыд. становішча Вільні, ад прывілея Ягайлы гораду на магдэбургскае права 1387 да экстракта рэзалюцыі Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў справе мяшчан-дысідэнтаў 1782. Многія дакументы зборніка не перавыдаваліся; кніга мае навук. значэнне.

***Валерый Пазднякоў.***

**Дубіцкія**, беларускія размалёўшчыкі і гравёры па шкле. У 2-й пал. 18 ст. працавалі на шкляных гутах Радзівілаў.

М і к а л а й (?—1794). Працаваў на гуце ў Налібаках, з 1739 ва Урэччы. Быў першым размалёўшчыкам па шкле, ствараў эскізы люстэркаў. У 1775—81 працаваў на мануфактуры Хадкевічаў у Чарнобылі, потым зноў ва Урэччы. Гравіраваў узоры на шкляных пластах і рамах для люстэркаў, аздабляў дробную шкляную пластыку.

Я н, відаць, сын Мікалая. Да 1744 і пасля 1750 працаваў у Налібаках, паміж імі — ва Урэччы. Быў памочнікам Мікалая, потым першым мастаком. Аздабляў келіхі манаграмамі і гербамі, келіхі накшталт «флейтаў» —гравіраванымі арламі і сардэчкамі, бутэлькі — вайсковай атрыбутыкай і ініцыяламі, уплеценымі ў выцягнуты арнамент. У 1781 дэкарыраваў 190 шкляных прыбораў для Радзівіла (Мацея?), у 1781—84 аздобіў прыборы для караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, у т.л. келіх з каралеўскім гербам і манаграмай. У 1784—85 стварыў набор шклянак з гравіраванымі яўр. літарамі.

*Літ.*: Я н і ц к а я М.М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.). Мн., 1977.

***Ірына Каранеўская.***




Пячатка **Дубны**. 1787—90.

**Дублінскі рукапіс**, гл. ў арт. *«Апісанне земляў»*.

**Дубна** (укр. Дубно, горад, цэнтр Дубнаўскага р-на Ровенскай вобл., Украіна), горад у Луцкім пав. Валынскага ваяв., на р. Іква. Упершыню ўпамінаецца пад 1100. У 1240 захоплена татара-манголамі. З 1340-х г. у складзе ВКЛ. У 14 ст. тут пабудаваны драўляны замак. Граматай ад 4.11.1386 Ягайла пацвердзіў, што Д. з'яўляецца ўласнасцю князя Ф.Астрожскага. 6.6.1498 горад атрымаў магдэбургскае права. У канцы 15 ст. разам з гар. ўмацаваннямі ўзведзены мураваны замак, існавалі Крыжаўзвіжанскі і Праабражэнскі манастыры. У 15—16 ст. на Д. неаднаразова нападалі татары. З 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 16 ст. ў замку дзейнічала людвісарня. У 1592 К.К.Астрожскі заснаваў Падбарэцкі манастыр. У пач. 17 ст. і ў канцы 18 ст. замак перабудоўвалі. У 1609 Я.Астрожскі стварыў ардынацыю з цэнтрам у г. *Астрог*, у якую ўваходзіў Д. У 1614 заснаваны кляштар бернардзінцаў, будаўніцтва касцёла распачата ў 1627 (асвячоны ў 1658), а жылога корпуса — у 1642. З 1620 уласнасць князёў Заслаўскіх. Кляштар кармелітак заснаваны ў 1660? А.Чарнецкай, касцёл пабудаваны ў 1630, жылы корпус — у 1686. У 1630—31 архімандрыт К.Саковіч перавёў усе дубенскія манастыры ў унію. Летам 1648 Д. часова авалодалі казацкія атрады М.Крываноса. У 1660 рас. і казацкія палкі трымалі ў аблозе замак, але захапіць яго не здолелі. У 1665 Ганна Пузына заснавала Стракліўскі правасл. манастыр (потым уніяцкі). З 1673 Д. — уласнасць Юзафа і Тэафіліі Любамірскіх, пасля смерці іх беспатомнага сына Аляксандра спадчына перайшла да яго сястры — жонкі Паўла Сангушкі. У 1753 Януш Сангушка перадаў Д. Станіславу Любамірскаму. У *Паўночную вайну 1700—21* у 1706 горад разрабаваны шведамі, потым заняты рас. войскамі. У 1727 і 1743 у Праабражэнскім манастыры праходзілі саборы (генеральныя капітулы) уніяцкай царквы. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Л о з о в' ю к І. Дубенські монастирі. Дубно, 1994.

***Валерый Грынявецкі.***

**Дубовіч** Аляксей (?—20.9.1652), дзеяч уніяцкай царквы, пісьменнік. Сын віленскага бурмістра, брат І.*Дубовіча*. Атрымаў добрую адукацыю. Уступіў у ордэн базыльян. Каля 1628 стаў старшым Віленскага Троіцкага манастыра, з 1637 архімандрыт, намеснік мітрапаліта. З 1645 адначасова архімандрыт супрасльскі. У Супраслі дабудаваў манастыр, адчыніў «рускую» школу. Шмат увагі аддаваў гаспадарчаму ўпарадкаванню манастыроў. Аўтар казанняў, панегірыкаў у гонар Уладзіслава IV, Я.Календы, Я.Тышкевіча, А.Кунцэвіч, Т.Трызны.

***Валерый Пазднякоў.***



Да арт. **Дубна**. Палац Астрожскіх у замку.



Да арт. **Дубна**. Паўночная дазорная вежа і палац Любамірскіх у замку.



**Дубовіч** Іван (Ян; ?—1646), грамадскі і царкоўны дзеяч, пісьменнік. Сын віленскага бурмістра, брат А.*Дубовіча*. Прыхільнік Берасцейскай царкоўнай уніі 1596. У 1619 намеснік полацкага уніяцкага архіепіскапа Іасафата Кунцэвіча ў Магілёве. З 1634 архімандрыт Пінскага Лешчанскага, пасля Дзярманскага манастыра на Украіне. Па яго даручэнні для Жыровіцкага манастыра была перапісана кормчая кніга. У 1627 апублікаваў пахавальны панегірык Б.Нарушэвіч. Кніга Д. «Іерархія, або Аб зверхнасці ў царкве Божай» («Hierarchia, abo o Zwierchności w Cerkwi Bożoy», Львоў, 1644) прысвечана абароне царк. уніі, тут шырока выкарыстаны бел.-літ., ўкр., маскоўскія летапісы, зах.-еўрап. крыніцы. У творы «Каляндар сапраўдны царквы Хрыстовай» («Kalendarz prawdziwy cerkwi Chrystusowej», Вільня, 1644) Д. абараняў увядзенне грыгарыянскага календара; высока ацэньваў каляндарна-астранамічныя даследаванні М.Каперніка, але адмаўляў яго геліяцэнтрычную тэорыю. Загінулі або не знойдзены творы Д. «Абарона царквы саборнай апостальскай супраць усіх ератыкоў» (1639), «Вобраз праваслаўнай царквы» (1645), «Кроніка, або Сумарыюш» (па царк. гісторыі), «Лад паўсядзённага роздуму».

*Літ.*: Харлампович К. Западнорусские православные школы XVI и начала XVII в. ... Казань, 1898; Галенчанка Г. Ян Дубовіч (канец XVI ст.—1646) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2003. Вып. 2.

***Георгій Галенчанка.***

**Дубоніс** (Dubonis) Артурас (н. 23.7.1962, г. Вільнюс), літоўскі гісторык, археограф. Д-р гуманітарных навук (1996). Скончыў Вільнюскі ун-т (1987). З 1988 працуе ў Ін-це гісторыі Літвы, старшы навук. супрацоўнік (1997). Даследуе літ. грамадства 13—16 ст., крыніцы па гісторыі Літвы 13—16 ст. Аўтар кн. «Лейці Вялікага княства Літоўскага: з мінулага ранняй дзяржаўнай структуры Літвы» («Lietuvos didžiojo kunigaikščio leičiai: iš Lietuvos ankstyvųjų valstybinių struktūrų praeities», Вільнюс, 1998). Выдаў кнігі Метрыкі ВКЛ № 11 і 15 (1997, 2002). Нац. прэмія Літвы ў галіне навукі (1998).

*Тв.*: Исследования экземпляров Третьего Литовского Статута: (от С. Б. Линде до наших дней) // 1588 metų Trečiasis Lietuvos Statutas. Vilnius, 1989; Du šimtai pskoviečių Saulės mūšyje (1236) // Lituanistica. 1990. № 1; Lietuvos didžiojo kunigaikščio dvarų leičiai (XV—XVI a. pr.) // Там жа. 1992. № 1; Vilniaus miestietis Lukas Mamoničius // Там жа. 1994. № 2; Лейтис в литовском обществе (XIII—XVIII вв.) // Acta Baltico-Slavica. Warszawa, 1996. T. 23; Ties Lietuvos ir Maskvos tarpusavio santykių ištakomis // Tarp istorijos ir būtovės. Vilnius, 1999; The case of Chronicle of Rivius // Lithuanian historical studies. 2000. Vol. 5; Найважнейшыя працы даследчыкаў Літвы па Літоўскай Метрыцы: бібліяграфія // METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2001. Т. 1; Giminė ir tarnyba Lietuvoje XVI a. pradžioje // Lietuva ir jos kaimynai: nuo normanų iki Napoleono. Vilnius, 2001; The Lithuanian Metrica // Lihthuanian historical studies. 2002. Vol. 7; Праблемы Літоўскай Метрыки: погляд з Вільнюса // METRICIANA: Даследаванні і матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага. Мн., 2003. Т. 2; Pirmieji Lietuvos valdovai: Giminiška meilė ir mirtina neapykanta // Lituanistica. 2003. № 2.

**Дубровенскі замак.** Існаваў у 16—18 ст. ў мяст. *Дуброўна*. Размяшчаўся каля сутокаў рэк Дуброўна (пазней Дубровенка, Дубровіца) і Дняпро, на мысавай частцы левага берага Дняпра. Меў прамавугольную арыентаваную па лініі У—З форму (каля 125 × 45 м). Пляцоўка замчышча была абкружана земляным валам (у наш час ссунуты на схілы) і ўзвышалася над паверхняй вады на 8—8,5 м. З пункту гледжання абароны Д.з. стаяў у вельмі зручным месцы: з Пн яго прыкрывалі воды шырокага і глыбокага тут Дняпра, з Пд і З — воды Дуброўны з прадуманай сістэмай запруд. Глыбокі роў і нізіна аддзялялі замак ад горада з яго складаным рэльефам. Да замка вёў адзіны шлях па вузкім насыпе-дамбе. Вясной абарончы вал з У запаўняўся вадой, і замак ператвараўся ў востраў. У 16—18 ст. замак складаўся з 2 пляцовак: уласна замка (90 × 45 м) і падзамка (35 × 45 м), якія былі размешчаны на 1 м ніжэй за замкавы дзядзінец. Іх раздзяляла сцяна з уязной брамай. Нямецкі дыпламат і падарожнік С.*Герберштэйн*, які ў 1517 праязджаў праз Дуброўну, зафіксаваў і нанёс на сваю «Карту Масковіі» выявы Д.з. ў выглядзе 2-ярусінай вежы. «Гарадавую работу» ў Дуброўне выконвалі мяшчане і сяляне валасці. З інвентароў Д.з. вядомы толькі «Інвентар Дубровенскага замка, цэйхгауза і шпіхлераў і ўсяго, што ў гэтым замку выяўлена», складзены 28.5.1545 рэвізорамі Андрыянам Парэнбакам і Якубам Гаецкім. Як сведчыць дакумент, на шляху ў замак стаяў умацаваны «прыгародак» — падзамак, куды траплялі праз «новарэстаўраваную і пакрытую» дахам Старую браму. Падзамак быў абнесены астрогам і акрамя праезнай варотнай вежы меў яшчэ 3 новапабудаваныя вежы. Можна меркаваць, што яны былі не менш як 2 ярусы вышынёй. У двары падзамка стаяла некалькі жылых і гасп. пабудоў, кожная з якіх аддзялялася ад суседняй агароджаю з часаных слупоў. Асобна стаяў цэйхгауз. Па перыметры Д.з. раней стаялі сцены-гародні, а з найб. небяспечнага боку ад р. Дуброўна — 2 вежы: «башта рагавая» знаходзілася над Дняпром, другая — за домам гараднічага. На час складання інвентара замест гародняў замак меў сцены ў выглядзе «астрога». Была яшчэ адна адзіночная «вежа высокая, старая» каля ўезду ў замак. Шлях у Д.з. праходзіў па пад'ёмным мосце, які падымаўся двума жалезнымі ланцугамі. У цэйхгаузе было 18 гармат, у т.л. 4 серпанціны і 3 бронзавыя гарматы. Было тут 5 шмыгаўніц, 5 кіёў простых жалезных, 6 кіёў, падобных на вузкія марціры, 64 гакаўніцы, 68 пяхотных мушкетаў, 37 ручніц, 39 вял. і цяжкіх мушкетаў — «кабыл», з якіх стралялі са спец. падставак — «форкетов». Усяго ў цэйхгаузе знаходзіліся 242 адзінкі агнястрэльнай зброі. Баявыя дзеянні ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* прывялі да разбурэння Д.з. У 1712 у Дуброўне замка ўжо не было. Тут стаяў толькі «двор», загароджаны новым дубовым штакетам і часткова папраўлены старым. На момант складання інвентару мелася яшчэ няскончаная і ненакрытая ўязная брама. Пляцоўку «двара» займалі гасп. і жылыя пабудовы. У 1730-я г. замак усё ж быў аднаўлены і праіснаваў да 1772.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 90—95.

***Міхась Ткачоў.***

**Дубровіца** (укр. Дубровиця, цяпер горад, цэнтр Дубровіцкага р-на Ровенскай вобл., Украіна), горад у Пінскім пав. Берасцейскага ваяв. Вядома з 11 ст. Да сярэдзіны 12 ст. ўваходзіла ў склад Турава-Пінскага княства, потым стала цэнтрам удзельнага княства. З пач. 13 ст. ў Галіцка-Валынскім княстве. З 1340-х г. у складзе ВКЛ; уласнасць князёў Гальшанскіх. У 1571 у якасці пасагу Д. атрымаў А.Курбскі. У 16 ст. тут пабудаваны касцёл, у 1695 — піярскі кляштар. У 18 ст. належала Плятэрам.

***Валерый Грынявецкі.***



**Дуброўна** ў канцы 18 ст.
З акварэлі М.Іванова.

**Дуброўна** (цяпер горад, цэнтр Дубровенскага р-на Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяв., на р. Дняпро пры ўпадзенні ў яго рэк Дубровенка (Задубровенка) і Свінка. У пач. 15 ст. Д. — цэнтр буйной воласці на мяжы Віцебскага і Смаленскага ваяводстваў. Вял. князь Аляксандр падараваў Д. разам з воласцю смаленскаму ваяводу Юрыю Глебавічу. У *вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* пры заняцці рас. войскамі Смаленска (1514) была захоплена і Д., аднак пасля *Аршанскай бітвы 1514* вызвалена. Паводле перамір'я 1522 засталася ў складзе ВКЛ. Пазней неаднаразова (1535, 1562, 1580 і інш.) Д. захоплівалі рас. войскі. Пасля Юрыя Глебавіча належала яго сыну, віленскаму ваяводу Я.Ю.Глябовічу (памёр у 1549), ад якога перайшло да яго непаўналетняга сына Я.Я.Глябовіча (1544—90). Да дасягнення ім паўналецця заставалася ўладаннем яго маці Ганны (дачка князя Ф.І.Заслаўскага). Я.Я.Глябовіч, што тытулаваўся графам «на Д. і Заслаўі», у 1567 выстаўляў з Д. і воласці ў войска 30 коннікаў. Потым Д. валодалі яго сын Мікалай і сын апошняга Ежы Кароль (памёр у 1669) — апошні прадстаўнік роду Глябовічаў. У 1630 у Д. заснаваны касцёл і кляштар бернардзінцаў. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* у 1654 пасля працяглай аблогі занята рас. войскам і моцна пацярпела. Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 засталася ў складзе ВКЛ. У 1677 Д. з воласцю (Дубровенскім графствам) былі падзелены паміж дочкамі Ежы Караля — Марцыбелай (жонка князя М.А.Агінскага) і Крысцінай (жонка К.Сапегі). Пасля смерці Агінскага (1690) Сапега купіў (паводле інш. звестак узяў у заклад) яго частку Д., што пазней было аспрэчана сынам сястры Агінскага Л.Пацеем. У канцы 17 ст. пачаўся працяглы ўзброены канфлікт паміж 2 магнацкімі групоўкамі ВКЛ, на чале адной з якіх стаяў Сапега. Войскі антысапегаўскай канфедэрацыі, да якой прымкнуў і Пацей, у 1698 разрабавалі Д., а ў вер. 1701 разбілі ў яго ваколіцах шляхецка-сялянскі атрад, узброены Сапегамі. У 1702 Пацей захапіў Д. Калі Сапега ў ходзе *Паўночнай вайны 1700—21* перайшоў на бок шведаў, Д. была яшчэ раз спалена калмыкамі з рас. атрада капітана Салаўёва. Пасля эміграцыі Сапегі Д. засталася ва ўладанні Пацея, які ў 1715 прадаў яго разам з воласцю А.Д.Меншыкаву. Аднак Сапега, які ўжо ў 1713 атрымаў каралеўскі дэкрэт аб амністыі і вяртанні маёнткаў, у 1719 адсудзіў Д. Праз год пасля яго смерці Д. падзялілі сыны Сапегі Ежы Станіслаў і Аляксандр Павел, апошні хутка аддаў *Дубровенскі замак* і частку мястэчка, што прыпалі на яго долю, у заклад Яну Лендарфу. Е.С.Сапега сваю частку таксама аддаў у 1725 у заклад Ежы Тышкевічу. У далейшым браты Сапегі з-за хранічнай нястачы грошай неаднаразова закладвалі і перазакладвалі Д. Частка Ежы Станіслава перайшла спачатку да яго сына Антонія Казіміра, потым да дачкі Крысціны (з 1745 жонка князя К.Масальскага). Доля Аляксандра Паўла, у якую ўваходзілі замак і асн. частка мястэчка, дасталася яго сынам Казіміру Леану і Міхалу Антонію, якія ў 1733 выкупілі яе з закладу. У 1750 у Д. заснавана суконная мануфактура. Аднак унук Меншыкава Сяргей працягваў прэтэндаваць на тую частку Д., што некалі складала долю Агінскага, а потым належала Е.С.Сапегу. У 1765 тагачасная ўладальніца гэтай долі Крысціна Масальская выплаціла яму 21,5 тыс. злотых за адмову ад яго прэтэнзій. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі.

***Вячаслаў Насевіч.***



**Дукат** ВКЛ. 1561.

**дукат** (ад лац. ducatus герцагства), агульнаеўрапейская назва залатой манеты, якую ў 1284 пачала чаканіць Венецыя. У нумізматыцы лічыцца, што яна паходзіць ад апошняга ў легендзе на рэверсе манеты слова (ducatus), хоць яно сустракалася на буйных сярэбраных манетах Італіі яшчэ ў 12 ст. На ўзор венецыянскага Д. чаканілі залатыя манеты ў Венгрыі і Чэхіі (каля 1325—



Угорскі **дукат**. 15 ст.
Знойдзены пры археалагічных раскопках у Крычаве.

26), Германіі (сярэдзіна 14 ст.), Польшчы (1320, 1528), ВКЛ (з 1562). На тэр. Беларусі ў 14—16 ст. найб. пашыраны венгерскі Д., вядомы ў пісьмовых крыніцах пад назвамі «золотой», з пач. 16 ст. — «червоный (черленый, червленый, чирвоный) золотой», «золотой в золоте», «золотой вгорскій (угорский)». У канцы 16—18 ст. абарачаўся Д. Пауд. Нідэрландаў і Германіі. У час археал. раскопак выяўлены Д. галандскі ў Мсціславе і «угорскі» ў Крычаве.

*Літ.*: Grierson. The venetion gold ducats and its imitation. New York, 1954; Ткачоў М., Трусаў А. Манеты з Крычава і Мсціслаўля // Спадчына. 1990. № 4; Масько И.Ф. Монетное золото в денежном обращении Великого княжества Литовского в XIV—60 гг. XVI в. // Тез. докл. на Всерос. нумизматической конф. Санкт-Петербург, 1994; Kurpiewski J. Narys historii pieniądza polskiego. Warszawa, 1993.

***Ірына Масько.***

**Думін** (Думин) Станіслаў Уладзіміравіч (н. 7.10.1952, г. Масква), расійскі



гісторык. Канд. гіст. навук (1981). Скончыў Маскоўскі ун-т (1975), вучань М.М.*Улашчыка*. Працаваў у навукова-даследчых установах Акадэміі педагагічных навук, Ін-це гісторыі СССР АН СССР. З 1988 старшы навук. супрацоўнік Дзярж. гіст. музея ў Маскве. Даследуе гісторыю ВКЛ: ролю славянскага элемента ва ўтварэнні і развіцці дзяржавы (развівае ідэю пра ВКЛ як «другую Русь»), гісторыю бел. татараў як адной з катэгорый ваеннаслужылага насельніцтва ВКЛ, генеалогію шляхты, Смаленскага ваяв., гісторыю дома Раманавых, школы і педагогікі. Удзельнічаў у стварэнні Рас. дваранскага збору. З 1990 старшыня Гісторыка-радаводнага т-ва ў Маскве, з 1999 прэзідэнт Рас. генеалагічнай федэрацыі, з 2000 генеральны сакратар Міжнар. генеалагічнай акадэміі. Адзін з аўтараў кнігі «Дваранскія роды Расійскай імперыі» («Дворянские роды Российской империи», т. 1—4, М., 1993—98).

*Тв.*: Литовская метрика в XVII веке // Исследования по истории Литовской метрики. М., 1990. Ч. 1; «Другая Русь»: (Великое княжество Литовское и Русское) // История Отечества: люди, идеи, решения. М., 1991; Пра вывучэнне гісторыі Вялікага княства Літоўскага // З гісторыяй на «Вы». Мн., 1991; Spis szlachty wylegitymowanej w guberniach grodzieńskiej, mińskiej, mohylewskiej, smoleńskiej i witebskiej. Warszawa, 1992 (з С.Гужынскім); Беларускія татары: мінулае і сучаснасць. Мн., 1993 (з І.Б.Канапацкім); Ciechanowieccy herbu Dąbrowa. Warszawa, 1997 (з А.Рахубам, І.Сікорскай-Кулешай); Романовы: Императорский Дом в изгнании. Семейная хроника. М., 1998; Herbarz rodzin tatarskich Wielkiego Księstwa Litewskiego. Gdańsk, 1999.

*Літ.*: Гербовед. 2002. № 5 (змешчана бібліяграфія прац Д.).

**Дундуліс** (Dundulis) Бронюс (26.11.1909, в. Гівакарай Купішкскага р-на, Літва—1.9.2000), літоўскі гісторык. Д-р гіст. навук (1967), праф. (1969). Засл. дзеяч навукі Літвы (1979). Скончыў Каўнаскі ун-т (1933). У 1934—40 вучыўся ў Сарбоне (Парыж), дзе абараніў доктарскую дысертацыю. У 1941—92 выкладаў у Вільнюскім ун-це, у 1945—47 нам. дэкана гіст.-філалагічнага факультэта, у 1946—61 заг. кафедры ўсеагульнай гісторыі. Адначасова ў 1941—47 выкладаў у Вільнюскім пед. ін-це, у 1944—47 заг. кафедры ўсеагульнай гісторыі. Даследаваў замежную палітыку ВКЛ, гісторыю Літвы ў эпоху напалеонаўскіх войнаў. Аўтар кніг «Напалеон і Літва ў 1812 г.» («Napoléon et la Lithuanie en 1812», Парыж, 1940), «Барацьба літоўскага народа за Жамойць і Занямонне ў XV стагоддзі» («Lietuvių kova dėl Žemaitijos ir Užnemunės XV amžiuje», Вільнюс, 1960), «Барацьба Літвы за дзяржаўную незалежнасць у 15 ст.» («Lietuvos kova dėl valstybinio savarankiškumo XV amžiuje», Вільнюс, 1968, 2 выд. 1993), «Знешняя палітыка Літвы ў XVI ст.» («Lietuvos užsienio politika XVI a.», Вільнюс, 1971), «Уварванні шведскіх феадалаў у Літву ў XVII—XVIII стст.» («Švedų feodalų įsiveržimai į Lietuvą XVII—XVIII a.», Вільнюс, 1977), «Літва ў гады напалеонаўскай агрэсіі (1807—1812)» [«Lietuva Napoleono agresijos metais (1807—1812)», Вільнюс, 1981], «Нарманы і балцкія краі (IX—XI вв.)» [«Normanai ir baltų kraštai (IX—XI a.)», Вільнюс, 1982], «Барацьба Літвы за Балтыйскае мора» («Lietuvos kovos dėl Baltijos jūros», Вільнюс, 1985); «Крах напалеонаўскай імперыі і Літва (1813—1815 г.)» [«Napoleono imperijos žlugimas ir Lietuva (1813—1815 a.)», Вільнюс, 1989]; «Літва ў віхуры барацьбы за свабоду (IX—XIX ст.)» [«Lietuva laisvės kovų sūkuriuose (IX—XIX a.)», Вільнюс, 1990], «Літва ў еўрапейскай палітыцы, 1795—1815» («Lietuva Europos politikoje, 1795—1815», Вільнюс, 1998]. Адзін з аўтараў кнігі «Вайна літоўцаў з крыжакамі» («Lietuvių karas su kryžiuočiais», Вільнюс, 1964).

*Літ.*: Lietuva ir jos kaimynai: Nuo normanų iki Napoleono: Prof. Broniaus Dundulio atminimui. Vilnius, 2001 (змешчана бібліяграфія прац Д.).

**Дурбе**, рака ў заходняй Латвіі, упадае ў Балтыйскае мора. У 1260 на Д. адбылася бітва паміж жамойтамі і злучанымі войскамі Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў, гл. *Бітва на Дурбе 1260*.

**Дусбург** Пётр, гл. *Пётр з Дусбурга*.

**Дыбоўскі** Себасцьян (?—каля 1565), гаспадарчы дзеяч ВКЛ. Паходзіў, відаць, з Ленчыцкай зямлі. З 1540-х г. дваранін каралевы Боны, выконваў яе гаспадарчыя даручэнні (у 1548 у Крэменецкім пав., у 1549 у Гарадзенскім старастве, у 1551 праводзіў люстрацыю Рагачоўскай вол.). З 1551 спраўца двароў Гарадзенскага староства, дзяржаўца навадворскі, малявіцкі, азёрскі, астрынскі. У 1555—65 разам з Л.Войнам праводзіў валочную памеру ў Гарадзенскім старастве (выніковы «Рэестр памеры валок» апублікавала ў 1881 Віленская археаграфічная камісія, гл. *«Пісцовая кніга Гродзенскай эканоміі»*). Праводзіў асваенне новых зямель, арганізоўваў велікакняжацкія фальваркі. Меў маёнткі ў Клецкім і Пінскім пав.

***Валерый Пазднякоў.***

**Дыгань** Тамаш (1588—1680), дзеяч каталіцкай царквы, пісьменнік. З заможнай віленскай мяшчанскай сям'і. Вучыўся, відаць, у Віленскай акадэміі. У 1615 уступіў у ордэн бернардзінцаў. Быў прапаведнікам, кусташам, спавядальнікам у Вільні і Коўне. У 1653 выбраны хранолагам (храністам) Малапольска-Літоўскай правінцыі ордэна. Да смерці вёў летапіс здарэнняў у правінцыі ордэна, які складаецца з хронік асобных бернардзінскіх кляштараў, змяшчае шмат цікавых падрабязнасцей і дакументаў, што пасля загінулі. Склаў цікавую хроніку Віленскага кляштара бернардзінцаў (1668). Выдаў 3 панегірыкі.

***Валерый Пазднякоў.***

**дыгнітарыі** (лац. dignitarius ад dignitas годнасць), у ВКЛ прыдворныя пры вялікім князю. Дыгнітарскімі называліся буйнейшыя ўрады (пасады), што не ўваходзілі ў *Сенат* Рэчы Паспалітай. На канец 18 ст. сістэма дыгнітарскіх урадаў паводле старшынства склалася наступным чынам: вял. сакратар, рэферэндары (2 чал.), падкаморы, вял. харужы, мечнік, канюшы, кухмістар, падчашы, крайчы, стольнік, падстолі, чашнік, лоўчы, пісар польны, генерал артылерыі, генерал-інспектар, абозны, вял. стражнік, пісары, мернік (мернічы, геаметр), войскі, піўнічы, інстыгатары, харужы надворны, падканюшы, лоўчы надворны, стражнік польны, абозны польны. Аналагічныя пасады існавалі і ў Кароне Польскай, акрамя мернічага; пасады войскага і піўнічага дыгнітарскімі не былі. Пра кожную пасаду гл. асобны артыкул.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**Дылецкі** Мікалай Паўлавіч (1630, Кіеў?—каля 1680), кампазітар і тэарэтык музыкі. Адукацыю атрымаў у Вільні, дзе пазнаёміўся з многімі дасягненнямі еўрап. муз. мастацтва, з муз. і музычна-тэарэтычнымі працамі вядучых кампазітараў. Віленскія муз. ўражанні паўплывалі на яго ўласныя творы — партэсныя канцэрты — манументальныя барочныя харавыя шматгалосыя кампазіцыі, якія



шырока распаўсюджваліся ў Літве, Польшчы, Беларусі, на Украіне і Расіі. Жыў таксама ў Варшаве і Кракаве, з 1675 — у Расіі (Масква, Смаленск). Тут ён працаваў пры царскім двары, кіраваў харавымі калектывамі, пісаў музыку і выдаў свае творы, якія спрыялі ўвядзенню тэорыі і практыкі шматгалосага спеву ў рус. муз. культуру. Гал. праца яго жыцця «Граматыка мусікійская» — падручнік па тэорыі і практыцы харавога спеву. 1-я польскамоўная рэдакцыя выдадзена ў Вільні ў 1675 (некат. даследчыкі выказвалі думку пра існаванне беларускамоўнага яе варыянта); на працягу стагоддзяў яна неаднаразова перакладалася на розныя мовы, перапісвалася, выдавалася і перавыдавалася ў С.-Пецярбургу, Маскве, Смаленску, Туле, Цверы, Салікамску, Енісейску і інш. гарадах. У «Граматыцы» на аснове вывучэння вял. тэарэт. і муз.-практычнага матэрыялу Д. абагульніў і развіў лепшыя дасягненні еўрап. харавога мастацтва. Яго работа паўплывала на фарміраванне рус. кампазітарскай школы. Узгадаваны на ніве маст. культуры ВКЛ, Д. стаў носьбітам і правадніком новых, зах. тэндэнцый у муз. культуры Расіі.

*Літ.*: Музыкальная эстетика России XI—XVIII вв. М., 1973; Протопопов В.В. Николай Дилецкий и его «Музыкальная грамматика» // Musika Antiqa. Acta scientificae. Bydgoszcz, 1975. Т. 4; Яго ж. Русская мысль о музыке в XVII веке. М., 1989; Памятники русского музыкального искусства. Вып. 7. М., 1979.

***Вольга Дадзіёмава.***

**ДЫМ**, сялянская гаспадарка ў ВКЛ у 14—18 ст. Гэта быў гасп. комплекс малой, іншы раз вялікай (якая не падзялілася), сям'і, складаўся з хаты, гасп. будынкаў, розных с.-г. угоддзяў, рабочай і прадукцыйнай жывёлы, гасп. інвентару. Ступень забяспечанасці розных Д. рабочай сілай і асн. сродкамі вытворчасці не была аднолькавай, аднак, як правіла, дастатковай для нармальнага функцыянавання сялянскай гаспадаркі. З'яўляўся адным з асн. аб'ектаў права ўласнасці феадалаў на зямлю, а таму і адным з асн. аб'ектаў уліку іх маёмасці. Поруч са *службай*, *дварышчам*, жэрабем і *валокай* служыў таксама адной з асн. адзінак абкладання дзярж. падаткамі і феад. павіннасцямі. Д. называлі таксама і двары мяшчан.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**ДЫМІТРОВІЧ** Павел, гл. *Дземітровіч* П.

**ДЫНАБУРГСКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ.** Існаваў у г. Дынабург (цяпер Даўгаўпілс, Латвія) у 1761—1811, у 1630—1761 дзейнічала рэзідэнцыя. Ужо ў канцы 16 ст. езуіты перыядычна наведвалі Дынабург з Рыгі і *Дорпата*. Першым фундатарам рэзідэнцыі быў ваявода смаленскі А.Гасеўскі, які ў 1629 запісаў свой маёнтак Аул на яе заснаванне. У 1749 будынак рэзідэнцыі згарэў, з 1753 будаваўся новы (карпусы ўзведзены ў 1758, 1762 і пасля 1800). Работа рэзідэнцыі ў Дынабургу часова спынялася ў *Паўночную вайну 1655—60, вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67, Паўночную вайну 1700—21*. У 1630 езуітам перададзены драўляны лютэранскі збор. У 1670—74 пабудаваны драўляны касцёл (асвячоны ў 1690), у 1737—46 — мураваны касцёл (працамі кіраваў Міхал Лігнаў, асвячоны ў 1746), у 1747 дабудаваны 2 вежы. У 1749 касцёл моцна пацярпеў ад пажару (адрамантаваны ў 1750—52). У пач. 19 ст. забраны пад царкву. У 1944 разбураны, у 1951 канчаткова разабраны. У 1638 пачаўся навучальны працэс у школе, які прыпыняўся ў часы ваен. дзеянняў сярэдзіны 17 ст. і эпідэміі 1709—12. У канцы 18 ст. тут вывучалі граматыку, рыторыку, філасофію, маральную тэалогію, франц., ням., рус. мовы, матэматыку і інш. У 1716 пабудаваны новы школьны драўляны будынак (згарэў у 1793), у 1796—1800 узведзены новы (згарэў у 1802). У 1715 пабудаваны новы будынак муз. бурсы, які ў 1734 згарэў і быў адноўлены ў 1736, потым муз. бурсе належалі 3 будынкі. У пач. 19 ст. б-ка калегіума налічвала каля 4 тысяч тамоў і шмат рукапісаў. У 1743 дзейнічала аптэка. У 1749 і 1768 для яе былі пабудаваны новыя памяшканні, а ў 1763 адкрыта лабараторыя.

***Валерый Грынявецкі.***

**ДЫПЛАМАТЫЯ**, сукупнасць прыёмаў, метадаў і прававых нормаў дзеля ажыццяўлення мірнымі сродкамі мэт і задач знешняй палітыкі дзяржавы; вядзенне, рэгуляванне і майстэрства выканання гэтых нормаў. Першыя дакументы міжнар. дзейнасці старабел. княстваў — граматы і дагаворы Полацка, Віцебска і Смаленска з Рыгай, Гоцкім берагам і Інфлянцкім ордэнам 1229, 1263—65, 1309, 1338, 1339 (або 1340) — сведчаць пра ўстойлівыя дыпламат. адносіны на падставе ўзаемнасці і раўнапраўя. З канца 12—пач. 13 ст. актыўную ролю ў рэгіёне пачалі адыгрываць стараж. літвіны, пра што сведчыць *дагавор1219* з Галіцка-Валынскім княствам. Пасламі звычайна былі княжацкія дружыннікі, баяры, святары, часам найб. уплывовыя і заможныя мяшчане. Нярэдка адбываліся і асабістыя сустрэчы князёў дзеля вырашэння тых ці інш. пытанняў. Гарантыяй недатыкальнасці паслоў з'яўлялася крыжацалаванне з боку таго, хто іх прымаў. Аднак гэтага закону князі прытрымліваліся не заўсёды і выпадкі яго парушэння былі не так рэдка. Паслы атрымлівалі харчаванне («корм») і сродкі перамяшчэння за кошт таго князя, да якога яны накіроўваліся. Яны мелі таксама з сабой і вярыцельныя граматы. Дагаворы заключаліся ў пісьмовай форме і вусна, зацвярджаліся цалаваннем крыжа ў князёў-хрысціян або прынясеннем у ахвяру вала, як у літвінаў-язычнікаў.

ВКЛ з пачатку свайго ўзнікнення ў сярэдзіне 13 ст. праводзіла актыўную міжнар. палітыку. Яно падтрымлівала дыпламат. адносіны з краінамі Еўропы і Азіі, у ліку якіх былі Вял. княства Маскоўскае, Заволжская арда, Крымскае і Казанскае ханствы, дзяржава нагаяў, Польшча, Венгрыя, Малдова і Валахія, Тэўтонскі ордэн, папскі прастол і інш. Дыпламатычная служба ВКЛ прайшла пэўную эвалюцыю. На яе станаўленне ў значнай ступені паўплываў назапашаны пазітыўны вопыт адпаведных службаў Полацкага, Турава-Пінскага і Смаленскага княстваў, а таксама і заходнееўрапейскіх краін. Свайго лагічнага завяршэння развіццё дыпламат. службы ВКЛ дасягнула ў канцы 15—пач. 16 ст., яе ўзначальваў сам гаспадар (вял. князь) і яго рада, а непасрэдна кіраваў *канцлер* і падначаленая яму *канцылярыя Вялікага княства Літоўскага*. У часы Жыгімонта І Старога [1506—48], асабліва пры канцлеру А.М.Гаштольдзе, канцылярыя з прыватнай установы пры асобе вял. князя літоўскага ператварылася ў агульнадзярж. інстытут, яе кіраўнікі (канцлеры, а з 1566 і *падканцлеры*) мелі шырокія паўнамоцтвы. У канцылярыі працавалі *пісары* («рускія», «лацінскія», «татарскія»), дзякі, перакладчыкі (талмачы), іншы абслуговы персанал. Асн. канцылярскай мовай была «руская» (старабеларуская). Большасць дакументаў, што выходзілі з канцылярыі і накіроўваліся да іншаземных уладароў, пісаліся на ёй. Лацінская мова ў адрозненне ад інш. еўрапейскіх краін у галіне Д. ВКЛ



ужывалася пераважна ў кантактах з папскім прастолам, Інфлянтамі і Тэўтонскім ордэнам. У адносінах з апошнімі двума важнае значэнне мела ням. мова. Выкарыстанне польскай мовы ў канцылярыі ВКЛ да Люблінскай уніі 1569 было нязначнае (першы дакумент на гэтай мове датуецца 1538). Нярэдка з канцылярыі ВКЛ выходзілі лісты і граматы на татарскай мове. Паводле Статута ВКЛ 1588 вял. князю як кіраўніку дзяржавы даваліся шырокія правы ў галіне знешніх кантактаў. Ён меў права пасылаць і прымаць паслоў, заключаць міжнар. пагадненні, уступаць у саюзы, абвяшчаць вайну і заключаць мір. Але ажыццяўляў свае знешнепаліт. паўнамоцтвы вял. князь, як правіла, з удзелам рады, сойма, канцлера, падканцлера і іншых службовых асоб вярхоўнага кіравання. Пасольскі персанал у ВКЛ фарміраваўся ў асноўным з магнатаў і шляхты. Дыпламат. прадстаўнікі звычайна падзяляліся на «вялікіх» паслоў, якія мелі права падпісваць і заключаць міжнар. пагадненні, «малых» паслоў (або пасланцоў) і ганцоў. Гэтыя катэгорыі дыпламатаў адрозніваліся паўнамоцтвамі і колькасцю світы. Выпраўляючыся за мяжу з дыпламат. даручэннем, паслы атрымлівалі даверчыя («верючие») граматы, інструкцыі («науку»), тэксты прамоў, грашовыя сродкі. Неабходным дакументам быў і глейтоўны ліст («опас», «опасная грамота»), які выстаўляўся ад імя таго манарха, куды накіроўвалася пасольства і ў якім гарантавалася бяспека праезду дэлегацыі да пункта прызначэння, яе знаходжання там і вяртання назад. У склад пасольства ўваходзілі пісары, талмачы, іншыя асобы. Іншы раз, пасля заканчэння пасольства, складаліся дзённікі (дыярыушы), напр. дыярыуш паслоў Жыгімонта Аўгуста Стафана Збаражскага і Яна Шымковіча, якія ездзілі ў Маскву ў 1556, дыярыуш Гальяша Пельгрымоўскага, сакратара пасольства Льва Сапегі ў Маскве ў 1600 і інш. Усе дакументы, што тычыліся пасольства, заносіліся ў кнігі Метрыкі ВКЛ.

Пасля заключэння Люблінскай уніі 1569 і ўтварэння Рэчы Паспалітай у дзейнасці дыпламат. службы ВКЛ адбыліся пэўныя змены. Паміж канцылярыямі ВКЛ і Кароны Польскай канчаткова ўсталяваўся своеасаблівы падзел сфер уплыву і дзеянняў: у кампетэнцыі Д. ВКЛ знаходзіліся дачыненні з Рас. дзяржавай і з Інфлянтамі, Кароны — з астатнімі краінамі, што падтрымлівалі дыпламат. сувязі з Рэччу Паспалітай. Пасольствы, адкуль бы яны ні ехалі і куды б ні накіроўваліся, павінны былі прадстаўляць інтарэсы ўсёй Рэчы Паспалітай, а не асобных яе частак. Аднак, нягледзячы на абвешчаную ў акце Люблінскай уніі еднасць замежнай палітыкі Польшчы і ВКЛ, абедзве дзяржавы на дыпламат. арэне часам дзейнічалі самастойна, асабліва ў часы бескаралеўя. Летам 1575 ВКЛ праводзіла перагаворы з кандыдатам на трон Рэчы Паспалітай імператарам Максіміліянам асобна ад польскай Д. У 1627 вял. гетман і віленскі ваявода Л.Сапега заключыў сепаратнае замірэнне са шведамі. Прыклад несупадзення падыходаў ВКЛ і Польшчы да адных і тых жа праблем міжнар. палітыкі — заключэнне з боку вял. гетмана і віленскага ваяводы Я.Радзівіла *Кейданскага дагавора 1655* са шведскім каралём Карлам X Густавам аб разрыве уніі з Каронай і ўтварэнні замест яе уніі са Швецыяй. Саюз з Польшчай у доўгатэрміновым плане не садзейнічаў умацаванню міжнар. пазіцый ВКЛ. У 17 ст. яно ў значнай ступені ператварылася з суб'екта ў аб'ект міжнар. палітыкі, які вымушаны абслугоўваць знешнепаліт. інтарэсы польскай кароны ў барацьбе з Расіяй, Швецыяй, Турцыяй. Спробы рэфармавання ладу Рэчы Паспалітай, замацаваныя ў *Канстытуцыі 3 мая 1791*, прадугледжвалі стварэнне адзінага ўрада дзяржавы з 5 міністраў, у т.л. міністра замежных спраў. Назначаўся і сакратар па замежных справах. Міністраў прызначаў кароль, які ўзначальваў урад. Усе акты караля падпісваў і адказваў перад соймам за гэты акт адпаведны міністр. Падзелы Рэчы Паспалітай і далучэнне Беларусі да Рас. імперыі радыкальна змянілі геапаліт. становішча бел. зямель.

*Літ.*: Kosman M. Forma umów międzynarodowych Litwy w pierwszej ćwierci XIII wieku // Przegląd historyczny. 1966. Z. 2; Polska służba dyplomatyczna XVI—XVIII wieku. Warszawa, 1966; Баненис Э.Д. Писари дипломатической службы Великого княжества Литовского в начале XVI века // Материалы межреспубликанской научной конференции по источниковедению и историографии народов прибалтийских республик Союза ССР: Источниковедение. Вильнюс, 1978; Яго ж. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės pasiuntinybių tarnyba XV—XVI amžiais. Vilnius, 1998; Dundulis B. Lietuvos užsienio politika XVI a. Vilnius, 1971; Historia dyplomacji polskiej. T. 1—2. Warszawa, 1982; Historia dyplomacji polskiej X—XX w. Warszawa, 2002.

***Уладзімір Кананові.***

**дысідэнты** [ад лац. dissidens (dissidentis) нязгодны], вернікі-хрысціяне, якія не прытрымліваюцца пануючага веравызнання, пераважна ў краінах, дзе дзярж. ці пануючай рэлігіяй з'яўляецца каталіцызм або пратэстантызм. У сярэдневяковай Еўропе каталіцкая царква праследавала Д. як «адступнікаў» ад пануючай веры, ератыкоў. У Рэчы Паспалітай да Д. адносілі прыхільнікаў арыянства, кальвінізму, лютэранства, сацыян, анабаптыстаў, квакераў, менанітаў, а пасля Берасцейскай уніі 1596 і праваслаўных. Прававыя гарантыі рэліг. цярпімасці ў адносінах да Д. замацаваны *Варшаўскай канфедэрацыяй 1573*, а потым гэтыя гарантыі пацвярджалі ўсе новавыбраныя каралі ў *Пакта канвента*. У наступныя часы пануючае становішча заняў каталіцызм. Гэта вымушала Д. звяртацца за падтрымкай да суседніх аднаверных ім дзяржаў, што распальвала ў Рэчы Паспалітай ганенні ў дачыненні да Д. як да «рэнегатаў» і «замежных агентаў». У 1616 улады Рэчы Паспалітай забаранілі выбіраць у сойм праваслаўных, у 1647 разгарнулі праследаванні арыян. Сойм 1661 пазбавіў усіх Д. права выбірацца ў сойм, а ў 1668 забараніў змену каталіцкага веравызнання пад пагрозай канфіскацыі маёмасці і баніцыі (выгнання за мяжу). Сойм 1717 дазволіў Д. праводзіць правінцыяльныя саборы, аднак забараніў вольнае набажэнства, якое дазвалялася толькі ў прыватных дамах «без пропаведзяў і спеваў». Канфедэрацыя 1733 захавала за Д. недатыкальнасць асобы і маёмасці, аднак забараніла ім выбірацца ў сойм, трыбуналы, займаць пасады ў камісіях, мясц. органах улады і пагражала смяротным пакараннем за пошук замежнай падтрымкі. У выніку гэтага ў 17 — 1-й пал. 18 ст. з амаль 200 рэфармацка-пратэстанцкіх збораў у ВКЛ да 1767 засталося толькі 38; у праваслаўных адабрана каля 200 цэркваў, а ў унію абернуты 3 епархіі. Для вяртання паліт. і рэліг. правоў пратэстанты пад пратэкцыяй Расіі, Прусіі, Англіі, Францыі, Даніі і Швецыі ў 1767 арганізавалі Тарунскую канфедэрацыю, а праваслаўныя, кальвіністы і лютэране — *Слуцкую канфедэрацыю*. Расія выкарыстала гэтыя канфедэрацыі як падставу для ўмацавання ўласнай паліт. гегемоніі ў Рэчы Паспа-



літай. Пасля ўсталявання на сойме 1768 сваёй апекі над дзярж. ладам Рэчы Паспалітай яна пагадзілася на захаванне тут за каталіцтвам статуса пануючай рэлігіі ўзамен за скасаванне дыскрымінацыйных пастаноў адносна Д. (гл. *Дагавор1768*). З гэтага часу дысідэнцкае пытанне ў Рэчы Паспалітай стала другарадным.

*Літ.*: Łukaszewicz J. Dzieje kościołów wyznania helweckiego w Litwie. T. 1—2. Poznań, 1842—43; Беднов В.А. Православная церковь в Польше и Литве (по Volumina Legum). Екатеринослав, 1908; Łubieńska M.C. Sprawa dysydencka, 1764—1766. Kraków, 1911; Kosman M. Reformacja i kontrreformacja w Wielkim Księstwie Litewskim w świetle propagandy wyznaniowej. Wrocław etc., 1973; Носов Б.В. Русская политика в диссидентском вопросе в Польше, 1762—1766 гг. // Польша и Европа в XVIII в. М., 1999.

***Яўген Анішчанка.***

**Дыяканаў** Іаакім, гл. *Іаакім.*

**Дыянісій** Балабан [?—10(20).5.1663], дзеяч праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. Скончыў Кіева-Магілянскую акадэмію. З 1650 першы епіскап холмскі на аднодзеленай правасл. кафедры, але з-за праціздзеяння уніятаў у 1651 пакінуў Холм. З 1655 епіскап луцкі і астрожскі. З дапамогай гетмана І.Я.Выгоўскага ў 1656 абраны мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі. Хоць у гэты час Кіеў знаходзіўся пад кантролем Масквы, Д. за благаслаўленнем звярнуўся не да маскоўскага, а да канстанцінопальскага патрыярха, чым выклікаў моцную незадаволенасць рас. улад. Д. падтрымаў намаганні Выгоўскага па заключэнні *Гадзяцкага дагавора 1658*, які прадугледжваў прадастаўленне кіеўскаму мітрапаліту месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай, і выехаў да гетмана ў г. Чыгірын, што знаходзіўся пад кантролем Рэчы Паспалітай. Пасля працяглы час жыў у Слуцку, заснаваў там кансісторыю (царк. суд) на ўзор кіеўскай. Каб перахапіць царк. уладу, маскоўскі ўрад у 1659 прызначыў у Кіеве мітрапаліцкім месцаахоўнікам епіскапа чарнігаўскага *Лазара* Барановіча, а ў 1661 — новапрызначанага епіскапа мсціслаўскага, аршанскага і магілёўскага Мяфодзія. Апошні ў 1662 быў праклятыканстанцінопальскім патрыярхам і не здолеў пашырыць свой уплыў на правасл. землі Рэчы Паспалітай. Д. памёр у г. Корсунь, яго пераемнікам абраны законны епіскап мсціслаўскі і аршанскі *Іосіф IV* Нелюбовіч-Тукальскі.

*Літ.*: Карпов Г. Дионисий Балабан, митрополит киевский: Из истории отношений киевской церковной иерархии к московскому правительству, 1654—1661 гг. // Православное обозрение. 1874. № 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**дыярыуш** (ад лац. diarium дзённік), жанр гістарычна-дакументальнай прозы, у якім падзеі грамадска-палітычнага або прыватнага жыцця пададзены ў храналагічнай паслядоўнасці ў форме датаваных запісаў праз суб'ектыўнае ўспрыняцце аўтара. У ВКЛ Д. ствараліся з 16 ст. пераважна прадстаўнікамі шляхецкага саслоўя, якія адлюстроўвалі падзеі свайго гасп. і асабістага жыцця, а таксама найб. важныя паліт. падзеі. На станаўленне Д. як жанру дакументальнай л-ры ўплывалі летапісы і хронікі, у якіх у 16 ст. выявілася тэндэнцыя да «алітаратурвання» храналагічных запісаў, а таксама дзённікі соймаў і пасольстваў. У 2-й пал. 16 ст. на змену традыцыйнаму летапісанню прыйшлі разнастайныя творы ў выглядзе агляддаў, храніографаў, мемуараў, сінопсісаў, сямейных дзённікаў, у форме Д. ствараліся дзелавыя і аўтабіяграфічныя запісы, журналы падарожжаў і ваен. паходаў, мастацкія творы. Яны пісаліся па свежых слядах падзей і вылучаліся павышанай увагай да асобы чалавека, яго запатрабаванняў, імкненняў і сац. быту. Першым у ВКЛ Д. аўтабіяграфічнага характару былі т.зв. «Гістарычныя запіскі» навагародскага падсудка Ф.М.*Еўлашоўскага* (канец 16—пач. 17 ст.). «Дыярыуш» *Афанасія Берасцейскага* (Філіповіча) 1-й пал. 17 ст. — першы твор гісторыка-мемуарнага жанру на бел. мове, які мае адпаведны загаловак. Першымі мемуарнымі Д. на польскай мове ў ВКЛ былі дзённікі бацькі і сына С.І.*Маскевіча* і Б.К.*Маскевіча*. Дыярыуш С.Маскевіча — першы твор, які вылучаецца высокім мастацкім майстэрствам. Д. пакінулі Я.А.*Храпавіцкі*, *Я.Цадроўскі*, Ю.*Будзіла*, *Я.К.Сапега*, *С.Я.Незабытоўскі*, *Я.У.Пачобут-Адляніцкі*, *П.К.Абуховіч* (17 ст.), Ф.Шырма (18 ст.) і інш. Штодзённыя запісы нясвіжскага ардыната М.К.*Радзівіла* Рыбанькі займаюць 8 рукапісных тамоў (цалкам не выдадзены). Форму Д. маюць *Баркулабаўскі летапіс* і запіскі Б.Радзівіла («З дыярыуша горада Слуцка»). Шмат дзённікавых запісаў і мемуараў пакінулі замежныя падарожнікі і паслы, якія праязджалі праз ВКЛ: *У.Кокс*, *І.Бернулі*, *Ж.Э.Жылібер*, *Г.Форстэр*, *Г.Гейкінг*, П.*Кампенгаўзен* і інш. З сярэдзіны 18 ст. Д. ўсё больш выцясняліся ўспамінамі, заснаванымі на рэтраспектыўнай рэляцыі (успаміны М.*Матушэвіча*, С.Тучкова і інш.). У гэтай жанравай разнавіднасці вылучаліся ўспаміны-дзённікі, успаміны-раманы (С.Р.*Пільштын*), успаміны-аўтабіяграфіі (кароль *Станіслаў Аўгуст* Панятоўскі), успаміны-генеалогіі (І.І.Ю.*Храптовіч*) і інш. Дзеянні рас. войск у перыяд падзелаў Рэчы Паспалітай адлюстраваны ў дзённіках рас. генералаў П.М.Крачэтнікава (1767—68) і М.М.Крачэтнікава (1792), якія па змесце блізкія да афіц. журналаў баявых дзеянняў. Дзённік капітана Маскоўскага грэнадзёрскага палка Гразева паведамляе пра падзеі ў Вільні ў час паўстання 1794, а генерала А.І.Безбародкі — пра знаходжанне караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў Гародні ў 1795—96.

*Публ.*: Помнікі старадаўняй беларускай пісьменнасці. Мн., 1975; Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983.

**дыяцэзія**, дыяцэз (ад лац. diocesis), адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў каталіцкай царкве. Адпавядае *епархіі*.

**Дэлягардзі** (de la Gardie) Магнус Габрыэль [15(25).10.1622, г. Рэвель, цяпер Талін—26(6.5).4.1686], шведскі дзяржаўны і ваенны дзеяч. З арыстакратычнага роду французскага паходжання. Жонка Д. — сястра шведскага караля *Карла X*. Займаў пасады дзярж. канцлера Швецыі, ген.-губернатара Лівоніі, фактычны рэгент Швецыі ў 1660—72. З 1650 падтрымліваў сталыя кантакты з Я.*Радзівілам*. Дыпламатычнымі агентамі Д. былі бел. правасл. купцы ў шведскай Рызе. У час *Паўночнай вайны 1655—60* паводле загаду Д. ў жн. 1655 шведскі атрад на чале з капітанам Ёханам вон Уленброкам заняў Браслаўскі пав., які да ліп. 1656 (юрыдычна да снеж. 1658) знаходзіўся ў складзе Шведскай дзяржавы. Д. стаў гал. ініцыятарам *Кейданскай уніі 1655* паміж Швецыяй і ВКЛ, падпісаў абодва кейданскія дагаворы і кіраваў урачыстай цырымоніяй з гэтай нагоды, што адбылася ў Кейданах 20.10.1655. Ад імя караля Швецыі даў Радзівілу ордэн імя Ісуса — вышэйшую шведскую ўзнагароду (да 1914 захоўваўся ў Нясвіжскім замку, цяпер у Каралеўскім музеі Швецыі). Падараваў Кейданскаму лютэранскаму збору звон з лацінскім надпісам «Ад сяброў Швецыі сябрам Літвы на памяць

дагавора ў Кейданах». Згодна з актам 20.10.1655 быў прызначаны генеральным намеснікам шведскага караля (і вял. князя літоўскага) Карла X, ген.-губернатарам Жамойці (1656—58). Ад імя караля раздаваў маёнткі і ахоўныя лісты вернай бел.-літ. шляхце. Набраў у шведскае войска полк літ. гусараў (1600 чал.). Кіраваў Шведскай радай Літвы ў Біржах. У 1656—58 беспаспяхова імкнуўся пазбегнуць вайны з Расіяй за ВКЛ. Падавіў Жамойцкае антышведскае паўстанне 18.4—15.5.1656. У 1657—58 прыхільнік ідэі адваёвы ВКЛ. У час знаходжання ў ВКЛ збіраў мясц. юрыд. дакументы і кнігі (цяпер у зборах Упсальскага ун-та). У архіве Д. ў Дзярж. архіве Швецыі захоўваюцца лісты да яго ад магнатаў, біскупаў і шляхты ВКЛ.

*Літ*: Magnusson G. Magnus Gabriel. Stockholm, 1993.

***Андрэй Катлярчук.***

**дэнарый** (ад лац. denarius які складаецца з дзесяці), 1) у Чэшскім каралеўстве з пач. 14 ст. сярэбраная манета ў $^1/_{12}$ *гроша пражскага* (адпаведна падзелу соліда на 12 Д. у каралінгскай манетнай сістэме з канца 8 ст.). 2) У Польскім каралеўстве з 2-й пал. 14 ст. агульнадзярж. і гарадская сярэбраная манета ў $^1/_{12}$ гроша польскага, з 1447 — у $^1/_{18}$ гроша польскага. Напачатку лігатурная маса 0,2—0,3 г, проба 200—400 праміле, у 1-й пал. 15 ст. лігатурная маса 0,3 г, проба 100—200 праміле. 3) У Польскім каралеўстве ў 2-й пал. 14 ст. гарадская медная манета ў $^1/_{12}$ гроша польскага, што білася ў Львове («рускі Д.»). 4) У ВКЛ у канцы 14—1-й пал. 15 ст. сярэбраная манета, як мяркуецца, у $^1/_{10}$ ці ў $^1/_{12}$ пражскага гроша. Першая ўласная манета ВКЛ. Вядома каля 10 тыпаў, сярод іх з кірылічным надпісам «ПЕЧАТЬ». Найб. распаўсюджаныя ў канцы 14—1-й пал. 15 ст. тыпы з выявамі герба *«Калюмны»* і наканечніка капʼя, гербаў «Калюмны» і *«Пагоня»*. Лігатурная маса 0,2—0,3 г, памеры 10—11 × 12—13 мм, таўшчыня 0,3—0,5 мм, проба 750—900 праміле. Часам тыпы з большай сярэдняй масай таксама адносяць да Д., але больш верагодна, што гэта наміналы, кратныя Д. Агульнымі тэхнічнымі рысамі першых манет ВКЛ зʼяўляюцца: выраб з кавалкаў няплюшчанага гладкім «чаканам» дроту (відаць, загатоўка рабілася непасрэдна малатком), адсутнасць прывядзення металу да адной пробы (верагодна, ужываўся лом металу розных проб



**Дэнары** ВКЛ: 1 — Ягайлы (канец 14 ст.); 2 — Вітаўта (канец 14 ст.); 3 — Аляксандра Ягелончыка (1492—1506); 4— Жыгімонта II Аўгуста (1557).

без папярэдняй ачысткі). Месца вырабу манет невядома, асн. канцэнтрацыя знаходак на тэр. сучаснай Літвы. Устойлівай атрыбуцыі адносна ўладароў большасць Д. не мае. 5) У ВКЛ у 2-й пал. 15—16 ст. сярэбраная манета ў $^1/_{10}$ гроша, якая мела назву *«пенязь»*. Д. 1546—63 Жыгімонта Аўгуста з гербамі ВКЛ і Польшчы на розных баках меў лігатурную масу 0,3 г, дыяметр 11—12 мм, таўшчыню 0,4 мм, пробу 219 праміле. 6) У Рэчы Паспалітай пасля уніфікацыі манеты ў 1580 і да сярэдзіны 17 ст. самая дробная агульнадзярж. і гарадская сярэбраная манета ў $^1/_{18}$ гроша. Біты на Віленскім манетным двары ў 1581—82 Д. Стафана Баторыя з гербамі ВКЛ і Польшчы на аверсе і легендай «I DENARI MDL» («1 дэнарый ВКЛ») на рэверсе меў лігатурную масу 0,4 г, дыяметр 12 мм, таўшчыню 0,3 мм, пробу 94 праміле.

*Літ.*: Sajauskas S., Kaubrys D. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės numizmatika. Vilnius, 1993; Ivanauskas E., Balčius M. Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės lydiniai ir monetos nuo 1387 iki 1495 metų. Vilnius, 1994; Сінчук І.І. Дэнарыі Вялікага княства Літоўскага з каменных магільнікаў Вензаўшчына і Куклі // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. 1995. № 3.

***Іван Сінчук.***

**Дэнгафы**, шляхецкі род уласнага герба «Дзік». Паходзілі з Вестфаліі, з 14 ст. жылі ў Інфлянтах. Найб. вядомыя:

Герард (каля 1632—5.1.1685), сын Герарда. Вучыўся ў Лейдэнскім ун-це (Галандыя). Каралеўскі дваранін, харужы надворны каронны ў 1661, чашнік ВКЛ у 1661—66, падстолі ВКЛ з 1666. У 1669 удзельнічаў у элекцыі караля Міхала Вішнявецкага.

Тэадор (?—1684), ваявода дорпацкі ў 1651—54, падстолі ВКЛ у 1655—56, крайчы ВКЛ у 1656—58, падскарбі надворны ВКЛ у 1658—61, падкаморы каронны з 1661.




Да арт. **Дэнгафы**. Т.Дэнгаф.

Эрнест (?—жн. 1693), сын Эрнеста, ваяводы парнаўскага. Удзельнічаў у войнах са Швецыяй, Рас. дзяржавай і ўкр. казакамі. З 1666 оберштэр рэгімента каралеўскай гвардыі, ген.-маёр (1670). Пасол на соймы 1670, 1672. У 1671—76 удзельнічаў у баявых дзеяннях на Украіне супраць турэцкіх войск і казакоў. З 1676 зноў камандзір рэгімента каралеўскай гвардыі. Лоўчы ВКЛ у 1676—83, кашталян віленскі ў 1683—85. У 1683 камендант Кракава, ген.-лейтэнант. У Венскай бітве 1683 камандаваў брыгадай



Да арт. **Дэнгафы**. С.Э.Дэнгаф. Партрэт невядомага мастака. Каля 1722.

пяхоты. З 1685 ваявода мальбарскі, з 1687 маршалак каралевы.

Фрыдэрык Юзаф (?—1723), каралеўскі палкоўнік, падчашы ВКЛ з 1712.

Станіслаў Эрнест (каля 1673, Касцежына, Польшча—2.8.1728), сын Уладзіслава, ваяводы паморскага, і Канстанцыі Слушкі. Вучыўся ў піярскім калегіуме ў Варшаве, падарожнічаў па Германіі і Францыі. Удзельнічаў у абранні на трон Аўгуста II (1697), садзейнічаў яму ў барацьбе са Станіславам Ляшчынскім. У 1702—17 маршалак *Сандамірскай канфедэрацыі*, якая падтрымлівала Аўгуста II. Удзельнічаў у бітвах са шведамі пад Варшавай 31.7.1705 і з прыхільнікамі Станіслава Ляшчынскага пад Калішам 29.10.1706. Захаваў вернасць Аўгусту II пасля яго адрачэння ад трона Рэчы Паспалітай і выезду з краіны. Пасля вяртання Аўгуста II у 1709 прызначаны польным гетманам ВКЛ. Недастатковая, на думку Станіслава Эрнеста, ацэнка яго заслуг прывяла да пагаршэння адносін з каралём, але ён працягваў служыць Аўгусту II, уціскаў прыхільнікаў Станіслава Ляшчынскага ў ВКЛ. Пасля скасавання ў 1717 Сандамірскай канфедэрацыі страціў уплывовае становішча ў краіне. Незадаволены палітыкай Аўгуста II па змяншэнні войска ВКЛ перайшоў на бок сваіх былых праціўнікаў. У апазіцыі каралю да 1721, каб процідзейнічаць яму, дапамагаў зрываць соймы. З 1723 ваявода полацкі. Меў маёнткі ў Сандамірскім ваяв., палацы ў Гданьску і Варшаве, трымаў шматлікія стараствы, у т.л. Мазырскае.

Багуслаў Эрнест (?—1734), сын Фрыдэрыка Герхарда. У 1699—1706 камандаваў рэгіментам кароннай пешай гвардыі, ген.-лейтэнант (1705). Падкаморы ВКЛ з 1702, адначасова генерал артылерыі ВКЛ у 1710—25 і камандзір рэгімента пяхоты ВКЛ, у 1711 — таксама камандзір рэгімента драгунаў.

*Валерый Пазднякоў.*

**Дэулінскае перамір'е 1618.** Заключана паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй 1.12.1618 на 12,5 года ў с. Дэуліна каля Троіца-Сергіевай лаўры пасля няўдалай спробы войска каралевіча Уладзіслава і казакоў гетмана П.Канашэвіча-Сагайдачнага захапіць Маскву ў час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. Абодва бакі былі знясілены і мелі патрэбу ў перадышцы, што адчувалася ў час перагавораў. Але паслы Рэчы Паспалітай, асабліва Л.Сапега, трымаліся бескампрамісна і катэгарычна. Маскоўская дэлегацыя на чале з Ф.Шарамецевым мусіла адмовіцца ад прэтэнзій на Смаленск і амаль усю Смаленшчыну, Чарнігаўскія і Ноўгарад-Северскія землі. У выніку этнічна бел. і ўкр. землі былі пакінуты ў Рэчы Паспалітай. Паводле ўмоў перамір'я быў праведзены абмен палоннымі, сярод якіх быў бацька цара Міхаіла Фёдаравіча мітрапаліт Філарэт. Аднак маскоўскі ўрад не траціў надзеі на перанясенне межаў сваёй дзяржавы на З, а каралевіч Уладзіслаў не адмовіўся ад прэтэнзій на маскоўскі трон. Недавырашанасць канфлікту прывяла ў далейшым да войнаў Расіі з Рэччу Паспалітай 1632—34 і 1654—67. Умовы Д.п. анульваны *Палянаўскім мірам 1634*, *Андросаўскім перамір'ем 1667* і *«Вечным мірам» 1686*.

*Літ.*: Савич А.А. Деулинское перемирие 1618 г. // Уч. зап. Московского гос. пед. ин-та. Сер. ист. 1939. Вып. 2; Саверчанка І.В. Канцлер Вялікага княства: Леў Сапега. Мн., 1992.

*Сяргей Пазняк.*

**Дэцый** (Decjusz) Ёст Людвік [сапр. Дзіц (Dietz) Ёдак; каля 1485, г. Вісембург, Эльзас—26.12.1545], польскі гісторык, эканаміст, дыпламат. З мяшчан. У 15 гадоў перасяліўся ў Маравію, займаўся гандлем, праблемамі горнай і манетнай справы. Прыкладна з 1507 у Кракаве, сакратар банкіра Я.Бонера, з 1520 сакратар караля польскага і вял. князя літоўскага Жыгімонта I Старога. З даручэннямі Бонера і Жыгімонта шмат разоў выязджаў у розныя краіны (гал. чынам у Італію). З 1525 удзельнічаў у правядзенні грашовай рэформы, загадваў манетнымі дварамі ў Кракаве і Торуні. З 1535 займаўся прадпрымальніцтвам у Сілезіі і Кракаўскай зямлі. У паліт. жыцці прыхільнік Габсбургаў, падтрымліваў цесныя сувязі з прускім герцагам Альбрэхтам; перапісваўся са шматлікімі гуманістамі і грамадскімі дзеячамі, у т.л. з Эразмам Ратэрдамскім, М.Лютэрам. Набыў вядомасць як мецэнат і кнігавыдавец. У 1521 у Кракаве разам з 2-м выданнем «Хронікі палякаў» Марціна з Мехава надрукаваны на лац. мове гіст. творы Д. «Пра старажытных палякаў» («De vetustatibus Polonorum», кампіляцыя прац розных аўтараў), «Пра фамілію Ягелонаў» («De Jagellonum familia», апрацаваныя вытрымкі з працы Мацея з Мехава), «Пра часы караля Жыгімонта» («De Sigismundi regis temporibus»). Апошняя кніга — арыгінальны твор пра першыя гады панавання Жыгімонта I (1506—17), у якой каштоўныя звесткі пра войны Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ, мяцеж Глінскіх 1508. У 1527 выдаў апісанне перамогі над татарамі ў *бітве на Альшаніцы 1527*.

*Тв.*: Польскі пер. — Księga o czasach króla Zygmunta. Warszawa, 1960.

*Літ.*: Hirschberg A. O życiu i pismach J.L.Decjusza. Lwów, 1874.

*Валерый Пазднякоў.*

**Дэшпаты-Зяновічы**, гл. *Зяновічы*.





**Езафовічы**, браты, дзяржаўныя і гаспадарчыя дзеячы ВКЛ. Сыны Іосіфа (Езафа) Рабчыка, які пры вял. князях Казіміры і Аляксандры браў у арэнду збор мыта ў Кіеўскім ваяв. Найб. вядомыя:

Я н (Абрам; ?—кастр. 1519). Пасля разбурэння Кіева татарамі ў 1482 перасяліўся ў Вільню. Каля 1488 перайшоў з іудаізму ў праваслаўе і перайшоў на службу да вял. князя Казіміра. З 1494 гараднічы, пасля стараста ковенскі, з 1509 падскарбі земскі ВКЛ. Узначальваў гар. адміністрацыю ў Смаленску (стараста), Менску і Берасці (войт). Браў у арэнду збор мыта і корчмы па ўсім ВКЛ (Вільня, Смаленск, Берасце, Менск, Коўна, Навагародак, Полацк і інш.). Даваў значныя пазыкі вял. князям Аляксандру і Жыгімонту Старому, быў іх гал. крэдытарам. За час свайго кіравання фінансамі ВКЛ дакладна адмежаваў велікакняжацкія даходы ад дзяржаўных, цэнтралізаваў фінансавы апарат ВКЛ, ажывіў дзейнасць Віленскага манетнага двара. Ад Аляксандра ў 1506 атрымаў маёнтак Вайдуны ў Віленскім пав., Падгорскае ў Смаленскім пав., Шэйнічы ў Менскім пав., частку Раканцішскай пушчы. Купіў Новы Двор і Жараслаўку ў Гарадзенскім пав., горад і замак Солец у Сандамірскім ваяв. Вял. маршалак ВКЛ Я.Забярэзінскі прыняў яго ў свой род з наданнем герба «Ляліва», што пацвердзіў Жыгімонт Стары (1507). Меў сыноў Васіля (у каталіцтве Ян) і Канстанціна, дачку Марыну.

М і х е л ь (?—каля 1529). Больш за 40 гадоў разам з братам ажыццяўляў вялізныя гандлёвыя аперацыі са збожжам, воскам, сукном, футрам, жалезам, каштоўнасцямі і інш. З пач. 16 ст. адміністратар гал. васковай і саляной мытні ў Берасці. Яму былі падначалены валынскія і падляшскія мытні. У 1514 Жыгімонт Стары прызначыў яго старшым над усімі яўрэямі ВКЛ. Быў пасрэднікам паміж вял. князем і яўрэямі ВКЛ ва ўсіх справах, гал. суддзёй над яўрэйскім насельніцтвам, збіраў з яго падаткі. Такія паўнамоцтвы сустракалі адпор з боку кагалаў — прыхільнікаў сваёй аўтаноміі. Пасля смерці брата Яна стаў яго спадчыннікам у грашовых справах, трымаў у арэндзе шматлікія мытні па ўсім ВКЛ. Ажыццяўляў значныя банкаўскія аперацыі, у т.л. з дзярж. скарбам. Прыкладна ў 1528 перадаў справы свайму брату Айзіку. Ваявода смаленскі Ю.Глябовіч прыняў Міхеля ў свой род з наданнем герба «Ляліва» (да 1514), пры гэтым той не прыняў хрысціянства. У 1525 Жыгімонт Стары надаў яму шляхецтва.

*Літ.*: И.В. [В о л ь ф Ю.] Еврей-министр при короле Сигизмунде // Восход. 1885. № 5; Б е р ш а д с к и й С.А. Аврам Езофович Ребичкович, подскарбий земский, член Рады Великого княжества Литовского. Киев, 1888.

***Валерый Пазднякоў.***

**Езнаўскі касцёл Міхала Архангела і Яна Хрысціцеля.** Помнік архітэктуры барока ў мяст. Езна (цяпер горад у Трэнайскім р-не, Літва), складаецца з частак рознага часу. У 16 ст. кальвінскі збор. У 1643—70 перабудаваны пад касцёл уласнікамі Езна Стафанам і Казімірам Пацамі. Значна павялічаны ў 1760—70 Антоніем Пацам з жонкай Тэрэзай (з Радзівілаў): павышаны сцены нефа, перакрытага цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, дабудаваны познабарочны двухвежавы фасад з фігурным шчытом і 2 сакрысты, у інтэр'еры — хоры для аргана на масіўных пузатых слупах. У 1770—79 скляпенне і люнеты над вокнамі аздоблены размалёўкамі невядомым майстрам-італьянцам. Пад касцёлам знаходзіцца крыпта, у якой былі пахаваны некалькі пакаленняў Пацаў.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**езуіты**, члены каталіцкага манаскага ордэна Таварыства Ісуса (лац. Societas Jesu, SJ), створанага ў 1534 іспанскім дваранінам Ігнаціем Лаёлам для барацьбы супраць Рэфармацыі і ўмацавання каталіцтва. Ордэн зацверджаны 27.9.1540 рымскім папам Паўлам III. Ён будаваўся на аснове строгай цэнтралізацыі, ваеннай дысцыпліны і абсалютнай волі яе кіраўніка — генерала, які выбіраўся пажыццёва і падначальваўся толькі папу рымскаму. Распрацаваная Е. сістэма маралі дазваляла ім шырока тлумачыць асн. рэліг.-духоўныя патрабаванні, адступаць ад клятвы, быць неразборлівымі ў сродках паліт. барацьбы дзеля «большай славы гасподняй». Усё гэта дало магчымасцьператварыць ордэн у моцную ўплывовую арганізацыю, якая распаўсюдзілася па Еўропе, пранікла ў многія краіны Афрыкі, Азіі і Паўд. Амерыкі, назапасіла вял. багацці і стварыла лепшую на той час сістэму адукацыі. У 1555 Е. з'явіліся ў Польшчы, у 1564 адкрылі калегіум у Браневе. З 1569 пачалі дзейнічаць і ў ВКЛ. У 1608 створана асобная Літоўская

правінцыя ордэна, куды ўвайшла ўся тэр. Беларусі, Літвы, Мазовіі, Латвіі. У 1759 з Літоўскай правінцыі вылучылася Мазавецкая правінцыя, у якую ўвайшла таксама частка зямель Беларусі. У 1770-я г. ў гэтых 2 правінцыях толькі на тэр. ВКЛ было каля 90 *езуіцкіх устаноў*. Каб задушыць рэфармацыйны рух у ВКЛ, які дасягнуў тут небяспечных для каталіцкай царквы памераў, Е. выкарыстоўвалі розныя формы апрацоўкі масавай свядомасці, у т.л. і праз свае калегіумы, рэзідэнцыі і місіі, што вялі прапаведніцкую дзейнасць. Важнае значэнне надавалася дабрачыннай дзейнасці (арганізацыя прытулкаў і шпіталяў). Бел. мова выкарыстоўвалася Е. толькі для выкладання ў малодшых класах калегіумаў, пакуль вучні не засвойвалі латынь, на якой працягвалася далейшае навучанне. Літаратуру Е. выдавалі на лац. і польскай мовах (у адзінкавых выпадках на бел., літоўскай, латышскай, эстонскай мовах). У пач. 1770-х г. Е. належала ў ВКЛ больш за 12 тыс. валок зямлі (каля 250 тыс. га), больш за 11 тыс. валок лесу. У 18 ст. за карыстанне ў Е. надзелам сяляне адпрацоўвалі ад 6 да 12 дзён у тыдзень з дыма, выконвалі згоны, талокі і інш. павіннасці. Пад уплывам ідэй Асветніцтва і ў выніку дзейнасці іх ордэна стаўленне да Е. з боку грамадства і дзярж. улад пагоршылася, у 1773 булай папы Клімента XIV ордэн скасаваны. Маёмасць езуіцкіх устаноў у ВКЛ перайшла да Адукацыйнай камісіі, на базе калегіумаў ствараліся свецкія школы.



Да арт. **Езуіты**.
Крывошынская Маці Божая.
Унізе святыя Ігнацій Лаёла
і Францыск Ксаверый.
Каля 1740.

*Літ.*: Дем ья нов ич А. Иезуиты в Западной России в 1569—1772 гг. СПб., 1872; Чистович И. Очерк истории западнорусской церкви. Ч. 1—2. СПб., 1882—84; Załęski S. Jezuici w Polsce. T. 1—5. Lwów; Kraków, 1900—06; Митрошенко И.Я. Иезуиты в восточной части Белоруссии с 1579-го по 1772-й год // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 2; Мараш Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн., 1974; Блинова Т.Б. Езуиты в Белоруссии. Мн., 1990; Яе ж. Иезуиты в Беларуси: Роль иезуитов в организации образования и просвещения. Гродно, 2002; Цярохін С.Ф. Многія прыйдуць пад імем маім: (езуіты на Беларусі). Мн., 1995; Encyklopedia wiedzy o jezuitach na ziemiach Polski i Litwy, 1564—1995. Kraków, 1996; Леруа М. Миф о иезуитах: От Беранже до Мишле. М., 2001.

*Дзмітрый Караў.*

**езуіцкае кнігадрукаванне.** Выданне кніг *езуітамі* ў ВКЛ ажыццяўлялася ў 2-й пал. 16 ст.—канцы 18 ст. Іх друкары ў розны час дзейнічалі ў Вільні, Нясвіжы і інш. Шэраг кніг, напісаных ці заказаных езуітамі, быў выдадзены інш. царкоўнымі (напр., Супрасльскай базыльянскай) і прыватнымі (Д.Ланчыцкага, Я.Карцана) друкарнямі. Да сярэдзіны 17 ст. езуіты выпусцілі ў сваіх і інш. друкарнях каля 600 найменняў кніг, што складала больш за палову кніжнай прадукцыі ВКЛ. Гэта была ў асн. тэалагічная, філас., навук. і навуч. л-ра на лац. і польск. мовах. Кнігі на старабел., літ., латышскай, ням., франц. і інш. мовах выпускалі рэдка. Першай і буйнейшай была *Віленская акадэмічная друкарня*. За час існавання (1575—1805) у ёй выпушчана каля 2,5 тыс. выданняў. *Нясвіжская друкарня* ў 1751—90-я г. выпусціла каля 70 выданняў. *Пінская друкарня* існавала, відаць, у 1729—46. Дакладна вядомы 8 выдадзеных ёю кніг, ёсць інфармацыя яшчэ пра тры.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Мн., 1974; История Вильнюсского университета (1579—1979). Вильнюс, 1979; Topolska M.B. Czytelnik i książka w Wielkim Księstwie Litewskim w dobie Renessansu i Baroku. Wrocław, 1984.

*Юрась Лаўрык.*

**езуіцкія ўстановы.** Арганізоўвалі дзейнасць ордэна *езуітаў*. Місіі (станцыі) — пачатковыя арганізац. адзінкі ордэна (2—3 чал.), якія абслугоўвалі невял. групу людзей (вёску, вайсковы стан, магнацкі двор). Вялі місіянерскую работу, збіралі грошы і інш. Напярэдадні 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) на Беларусі было больш за 70 місій. Рэзідэнцыі — ордэнскія дамы на чале з суперыёрам, дзе жыў ці часова прыпыняўся кіраўнік ордэнскай правінцыі — правінцыял. Часта пры іх існавалі пач. школы, тэатры. Падпарадкоўваліся бліжэйшаму калегіуму. Рэзідэнцыі былі ў Бабруйску, Вільні, Магілёве, Мсціславе, Полацку, Слоніме, Смаленску, Юравічах і інш. Некаторыя з іх пераўтварыліся ў *калегіумы*. Акадэміі — вышэйшыя навуч. ўстановы на чале з рэктарамі. У ВКЛ дзейнічала *Віленская акадэмія*. Навуч. ўстановы былі падсправаздачныя правінцыялу адпаведнай ордэнскай правінцыі і генералу ордэна. Навіцыяты — вышэйшыя закрытыя курсы для прыняцця 3 манаскіх зарокаў, атрымання звання схаласта і права выкладаць. Існавалі пры калегіумах у Вільні, Гародні, Навагародку, Оршы, Пінску, Полацку. Дамы прафесаў — вял. ордэнскія дамы (да 30—40 манахаў) на чале з прэпазітам. Прафесы — езуіты-каад'ютары, акрамя 3 манаскіх зарокаў, давалі зарок асаблівай паслухмянасці папу рымскаму. У ВКЛ існаваў Віленскі дом прафесаў. Згарнулі дзейнасць са скасаваннем ордэна.

*Арына Вячорка.*

**Езярышча**, гар. пасёлак у Гарадоцкім р-не Віцебскай вобл., Рэспубліка Беларусь, гл. *Азярышча*.

**Елгава** (Jelgava), горад у Латвійскай Рэспубліцы, гл. *Мітава*.

**Ельня** (цяпер горад, цэнтр Ельненскага р-на Смаленскай вобл., Расійская Федэрацыя), горад у Смаленскім ваяв., на р. Дзясна. Вядома з 12 ст. (паводле інш. крыніц, з 13 ст.) у *Смаленскім княстве*. З канца 13 ст.—1-й пал. 14 ст. ў ВКЛ. У 1500 тут пасля *бітвы на Вядрошы 1500* быў узяты ў палон К.Астрожскі. У выніку *вайны Маскоўскай дзяржавы з*

*Вялікім княствам Літоўскім 1512—22* далучана да Маскоўскай дзяржавы. У 1612—54 у ВКЛ, у Смаленскім ваяв. Занята рас. войскамі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Паводле *Андросаўскага перамір'я 1667* засталася ў складзе Расіі.

*Валерый Грынявецкі.*

**Ельск** (цяпер горад, цэнтр Ельскага р-на Гомельскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Мазырскім пав. Менскага ваяв. Вядомы з 16 ст., належаў франц. эмігрантам Спадам. У канцы 17—18 ст. уласнасць Аскеркаў. У 1769—80 тут пабудавана драўляная Троіцкая царква (5-зрубная, крыжова-купальнай кампазіцыі), меўся касцёл і яўр. малітоўны дом. У 1784 упамінаецца ў сувязі з увядзеннем грашовага збору для праезджых праз мястэчка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Ельскага р-на. Мн., 2001.

*Валерый Грынявецкі.*

**Ельскія**, шляхецкі род герба «Пелеш». З канца 16 ст. вядомы браты Шчэнсны і Габрыэль Е. Сын першага Раман — войскі пінскі (1617), быў жанаты з Кацярынай Саламярэцкай. Сын другога Мікалай — падстараста (1616), стольнік (1629) і войскі пінскі (1631). Найб. вядомыя:

Л у к а ш (?—?), маршалак пінскі (1650).

У л а д з і с л а ў (?—?), староста пінскі (1733), палкоўнік пяцігорскі. У шлюбе з Аленай Бжастоўскай меў сыноў Юзафа, Францішка, Станіслава, Канстанціна.

Ю з а ф (?—?), сын Уладзіслава. Паручнік Гарадзенскага пав. (1764), падчашы (1764), войскі (1765), харужы гарадзенскі (1773).

Ф р а н ц і ш а к (1738—23.3.1821), сын Уладзіслава. Скарбнік, потым падстолі гарадзенскі (1777), падкаморы старадубскі (1780). На соймах 1778 і 1780 абіраўся скарбовым камісарам ВКЛ. Маршалак Трыбунала ВКЛ (1783). Пасол на Чатырохгадовы сойм 1788—92. У час *паўстання 1794* чл. *Цэнтральнай дэпутацыі Вялікага княства Літоўскага*. Пасля ў эміграцыі, вярнуўся пры Паўле І. Член Часовага ўрада ВКЛ 1812. Пасля другой эміграцыі жыў у Царстве Польскім. З жонкай Амеліяй Прозар меў сыноў Уладзіслава, Людвіка, Міхала, Леана.

С т а н і с л а ў (?—3.1.1829), сын Уладзіслава. Паручнік пяцігорскі, камісар скарбовы ВКЛ (1784—92), камісар скарбовы Рэчы Паспалітай (1792—93). Маршалак Ігуменскага пав. (1795—1812). Ад жонкі Ружы Прозар атрымаў у пасаг Дудзічы. Яго сын Кароль быў харунжым ігуменскім.

К а н с т а н ц і н (?—21.10.1799), сын Уладзіслава. Харужы пяцігорскі (1782), шамбялян Станіслава Аўгуста Панятоўскага, стольнік старадубскі (1786). Пасол на Чатырохгадовы сойм 1788—92. Удзельнік падрыхтоўкі паўстання 1794, ездзіў да Т.Касцюшкі ў Італію. У 1794 прызначаны Касцюшкам зямянскім ген.-маёрам Гарадзенскага пав. для арганізацыі паспалітага рушэння шляхты. Пасля задушэння паўстання ў падполлі.

У л а д з і с л а ў (?—?), сын Францішка. Ротмістр нац. кавалерыі (1793).

*Валерый Пазднякоў.*

**Емяльянчык** Уладзімір Пятровіч (9.5.1955, в. Вялікія Лукі Баранавіцкага р-на—5.6.2003), беларускі гісторык. Канд. гіст. навук (1987). Скончыў БДУ (1980). Працаваў у Мінскім ін-це культуры, з 1990 у Ін-це гісторыі АН Беларусі, адначасова выкладаў у БДУ, дацэнт. Даследаваў паліт. і вайсковую гісторыю Беларусі 18 ст., узаемадачыненні Беларусі з Польшчай і Расіяй. Адзін з аўтараў «Нарысаў гісторыі Беларусі» (ч. 1, 1994).

*Тв.*: «Нарадзіўся я ліцвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. Мн., 1994 (з Я.А.Юхо); Дыверсійныя рэйды ў паўстанні 1794 года на Беларусі // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1994. № 2; Паланез для касінераў: (З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі на Беларусі). Мн., 1994; Да пытання аб паходжанні Ратамскіх — продкаў Тадэвуша Касцюшкі па маці // Беларусь і Тадэвуш Касцюшка: спадчына, час, здабыткі. Мн., 2002.

*Літ.*: Г о л у б е ў В., Х а д ы к а А. In memoriam // Філаматы. 2003. № 2.

**епархія** (ад грэч. eparchia), хрысціянская царкоўна-адміністрацыйная адзінка ў межах пэўнай тэрыторыі (вобласці, зямлі, дзяржавы), падведамная *епіскапу*. Першапачаткова дзярж.-адм. адзінка на ўсходзе Рымскай імперыі. Калі з 4 ст. царк.-адм. падзел стаў адпавядаць дзярж.-адм. падзелу імперыі, назва Е. пачала ўжывацца і ў хрысц. царкве. Складаецца з прыходаў, якія ўтвараюць благачынні (благачынныя акругі).

Е. ў п р а в а с л а ў н а й ц а р к в е. У Кіеўскай Русі з'явіліся ў канцы 10 ст. пры князю Уладзіміру Святаславічу [980—1015], ён разам з мітрапалітам Лявонціем заснаваў 8 Е., у т.л. 2 на тэр. Беларусі: Полацкую (992) і Тураўскую (1005). Да мангола-татарскага нашэсця (1237—41) у сувязі з раздрабненнем Русі на асобныя княствы і ўдзелы ўзнікла яшчэ 8 Е., у т.л. Смаленская (1136). Пасля 1241 з пераносам епіскапскай кафедры ў Пінск Тураўская Е. стала называцца Турава-Пінскай. Кіеўская мітраполія да сярэдзіны 15 ст. захоўвала адноснае адзінства (нягледзячы на перыяды фактычнага адасаблення Маскоўскай і Літоўскай мітраполій). У 1458—59 Рус. правасл. царква канчаткова падзялілася на 2 мітраполіі: Кіеўскую (у межах ВКЛ і Польшчы з цэнтрамі ў Навагародку і Вільні) і Маскоўскую. З 1472 правасл. царква ВКЛ і Польшчы атрымала кананічнае прызнанне канстанцінопальскага патрыярха. Была створана асобная мітрапаліцкая Кіеўская Е., куды ўваходзілі ў 15—16 ст. землі Віленскага, Навагародскага, Троцкага, Менскага і Кіеўскага ваяв. У 16 ст. тэр. ВКЛ уваходзіла, акрамя мітрапаліцкай, у склад Е. Полацкай, Турава-Пінскай, Уладзіміра-Берасцейскай, Смаленскай і Чарнігаўскай. Пасля пераходу ўсіх правасл. Е. у выніку *Берасцейскай уніі 1596* пад уладу грэка-каталіцкіх епіскапаў была створана Магілёўская (Мсціслаўская, Беларуская) Е., якая ў 1633—1793 была адзінай правасл. Е. у ВКЛ.

Е. ў р ы м с к а - к а т а л і ц к а й ц а р к в е (біскупства, дыяцэз, дыяцэзія). На тэр. ВКЛ першым каталіцкім біскупствам стала Луцкае (2-я пал. 14 ст.). З прыняццем каталіцтва ў ВКЛ (1387) у 1388 засн. Віленскае біскупства, якое ахоплівала тэр. Беларусі і Літвы (без Жамойці). У 1417 утворана Жамойцкая Е. Яны падпарадкоўваліся гнезненскаму арцыбіскупу. У розныя гады заснаваны Камянецкая, Кіеўская, аднак з 1569 яны апынуліся па-за межамі ВКЛ (Луцкая Е. захавала за сабой нязначную частку паўд.-зах. Беларусі). У 1582 створана Інфлянцкая Е. З 1613 на ўсх. землях ВКЛ існавала Смаленская Е. (кананічна ў 1636—1798). У межах Віленскай Е. было 429 парафій (1772). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) паводле загаду Кацярыны II у 1773 утворана Бел. каталіцкая Е. з цэнтрам у Магілёве, якая ахоплівала далучаныя да Рас. імперыі землі ВКЛ.

Е. ў г р э к а - к а т а л і ц к а й ц а р к в е. Створаная ў 1596 грэка-каталіцкая царква доўгі час захоўвала правасл.



традыцыі, у т.л. ў адм.-тэр. будове. Першапачаткова Е. падзялялася на пратапопіі (благачынні), з 18 ст. пашырыўся падзел на афіцыялаты, якія складаліся з дэканатаў, узначальваліся афіцыяламі і дэканамі. Гістарычна Е. пераўтвараліся ў грэка-каталіцкія з правасл. пры пераходзе іх епіскапаў ва уніяцтва і захоўвалі свае ранейшыя назвы. У ВКЛ існавалі Полацкая і Турава-Пінская, знаходзіліся значныя часткі Е. Кіеўскай мітрапаліцкай, Смаленскай і Уладзіміра-Берасцейскай. Кіеўская Е. знаходзілася ў непасрэдным падпарадкаванні мітрапаліта, была самай вялікай па тэрыторыі, ахплівала Віленскае, Мінскае, Навагародскае, Троцкае (на Беларусі), Кіеўскае і Брацлаўскае (на Украіне) ваяводствы. Намінальным цэнтрам гэтай Е. лічыўся Кіеў, фактычна мітрапаліты жылі ў Навагародку, Вільні, у Варшаве (з 18 ст.). Полацкая Е. ахоплівала Полацкае, Віцебскае і Інфлянцкае ваяв., Курляндскае герцагства. Яна была найб. па тэр. і колькасці прыходаў (у сярэдзіне 18 ст. — каля 600) пасля Кіеўскай мітрапаліцкай Е. ў ВКЛ. На працягу 17—18 ст. Полацкая Е. была арэнай барацьбы уніятаў і праваслаўных. У 1650—60-я г. праваслаўныя дамагліся скарачэння Полацкай Е. ўдвая і нават яе поўнага скасавання (1657) пасля заняцця Полацка рас. войскам у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Пазней падобныя захады уніяцкія епіскапы рабілі ў дачыненні да Магілёўскай правасл. Е. (1699). У выніку місіянерскай дзейнасці і рэліг. ўціску значная частка б. правасл. прыходаў увайшла ў Полацкую Е., а Смаленская пашыралася на Смаленскае і Чарнігаўскае ваяв. З далучэннем Смаленшчыны да Рас. дзяржавы (1667) Смаленская Е. спыніла існаванне, адноўлена пасля «Вечнага міру» 1686 на невялікай тэр. (поўнач Віцебскага ваяв.), вернутай Расіяй Рэчы Паспалітай. У 18 ст. смаленскі архіепіскап меў рэзідэнцыю ў Ануфрыеўскім манастыры каля Мсціслава. Найменшая з усіх Турава-Пінская Е. ахоплівала Пінскі і ўсх. частку Берасцейскага пав. Уладзіміра-Берасцейская Е. ўключала зах. частку Берасцейскага і паўн.-зах. Луцкага ваяв. Яе епіскапы неаднаразова выбіраліся мітрапалітамі. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай пад уладай Рас. імперыі цалкам апынуліся Полацкая, Смаленская, Турава-Пінская, частка Кіеўскай, Уладзіміра-Берасцейскай, Луцкай, Львоўскай і Холмскай Е. Невял. тэр., якая раней належала Кіеўскай і Уладзіміра-Берасцейскай Е. (Беластоцкай акр.), адышла да Прусіі. У 1795 імператрыца Кацярына II скасавала ўсе уніяцкія Е., акрамя Полацкай.

*Літ.:* Грыгаровіч І. Беларуская іерархія. Мн., 1992; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 2000.

***Генадзь Шэйкін, Мікола Матрунчык, Валянціна Яноўская, Ігар Ганчарук, Сяргей Казуля.***

**епіскап** (грэч. episkopos літар. наглядальнік), вышэйшы духоўны сан у праваслаўнай, каталіцкай, англіканскай і старажытнаўсходніх цэрквах. Кіраўнік царк.-адм. тэр. адзінкі — *епархіі* ці яго памочнік (вікарый у праваслаўі, суфраган у каталіцызме). Е. — кіраўнікі вялікіх епархій ці акруг з некалькіх епархій могуць мець ганаровыя тытулы: архіепіскап, мітрапаліт, экзарх, патрыярх і інш. Паводле царк. дагматыкі Е. — носьбіт таінства свяшчэнства, толькі ён можа выконваць хіратонію (пасвячэнне) дыяканаў і святароў. Палажэнне аб Е. вызначаецца ў кожнай царкве адпаведнымі канонамі. Е. мае спец. знакі епіскапскай годнасці і асаблівае адзенне. У яго тытул звычайна ўваходзіць назва горада, дзе знаходзіцца кафедра. Пасвячаюць у Е. пажыццёва, пазбаўляюць сану ў выключных выпадках. У шэрагу пратэстанцкіх аб'яднанняў, напр., лютэранстве і інш., некаторых вышэйшых асоб таксама называюць Е., але ў іх гэтая пасада не мае сакральнага сэнсу.

**Еранім Пражскі** (Jeroným Pražský; каля 1371—30.5.1416), чэшскі рэфарматар, паплечнік Яна Гуса, вучоны, прамоўца. Скончыў Пражскі ун-т (1398). У 1399—1401 у Англіі. У 1404 у Парыжы атрымаў ступень магістра, выкладаў ва ун-тах Кёльна, Парыжа, Гайдэльберга. Прыхільнік ідэй англ. рэфарматара Дж.Уікліфа. Шмат падарожнічаў, выступаў з пропаведзямі, у якіх выкрываў злоўжыванні каталіцкага духавенства, ням. засилле ў Чэхіі. Шукаючы прыхільнікаў у суседніх славянскіх землях, у 1412—13 наведаў Вільню, Пскоў, Кракаў; доўга гасціў у Полацку, адкуль сумесна з вял. князем Вітаўтам накіраваўся ў Віцебск, дзе прапаведаваў слова Божае і знаёміў з гусіцкім рухам двор Вітаўта і жыхарства горада. Паводле пісьма кракаўскага біскупа, Е.П. быў у ВКЛ нядоўга, але выклікаў такое хваляванне сярод духавенства і народа, якога не ведалі ў гэтых краях. Спадзеючыся выратаваць Гуса, Е.П. паехаў у Констанц на царк. сабор. Асуджаны саборам як ератык і спалены.

*Літ.:* Сапунов А. Витебская старина. Т. 1. Витебск, 1883; Мацек И. Табор в гуситском революционном движении. Т. 1. М., 1956; Šmahel F. Jeronim Pražský. Praga, 1966; Я. Г. Узаемаадносіны Беларуска-Літоўскага княжства з Чэхіяй 500 гадоў таму назад // Спадчына. 1997. № 2.

**Еранім Пражскі** (Сільван; Hieronim z Pragi, Sylwan) Ян (каля 1368, Прага—17.7.1440) дзеяч каталіцкай царквы. Вучыўся ў Пражскім ун-це, дзе атрымаў ступені бакалаўра (1389) і магістра (1392). Сябраваў з Я.Гусам і яго прыхільнікамі: сваім цёзкам *Еранімам Пражскім*, Якубам са Стшыбра. Уступіў у манаскі ордэн нарбертанаў. У 1394 прыбыў як спавядальнік і прапаведнік на польскі двор Ягайлы, вучыўся тэалогіі ў Кракаўскай акадэміі. Пасля як місіянер дзейнічаў у ВКЛ, але з-за канфлікту з Вітаўтам і біскупамі мусіў з'ехаць. Прычынай канфлікту было супраціўленне мясц. дзеячаў рашучаму знішчэнню лясоў — месцаў язычніцкага культу, што выклікала абурэнне жыхароў і стварала небяспеку паўстання. Пасля вяртання ў Польшчу па просьбе Е.П. ў 1410 Ягайла заснаваў для яго кляштар нарбертанаў у Новым Сончы. У 1413 выехаў у Італію, уступіў у ордэн камедулаў. У 1428—30 як пілігрым наведаў Святую Зямлю. У 1432 запрошаны на Базельскі сабор, адкуль у 1433 пасланы ў Польшчу, каб перашкодзіць узмацненню яе сувязей з гусіцкай Чэхіяй. Быў пасрэднікам у перагаворах палякаў з крыжакамі, схіліў польскае духавенства пасладь пасольства ў Базель. У 1432 або 1433 сустракаўся з гуманістам Э.С.Пікаламіні (будучы рымскі папа Пій II), які паведамленні Е.П. пра рэліг. сітуацыю ў Літве змясціў у кнізе «Пра Еўропу» («De Europa»).

***Валерый Пазднякоў.***

**ерасі** (ад грэч. hairesis асобае веравучэнне), рэлігійныя плыні ў хрысціянстве, якія адхіляліся ад артадаксальнай царкоўнай дактрыны ў дагматыцы і кульце; спецыфічная форма пратэсту супраць пануючай царквы, афіцыйнага рэлігійна-тэалагічнага светапогляду, існуючых сацыяльных адносін. У ВКЛ у пач. 15 ст. сярод часткі шляхты і гараджан

былі папулярныя ідэі гусізму. У 2-й пал. 15—пач. 16 ст. пашырылася рэліг.-рацыяналістычнае вучэнне, якое мела назву Е. «пажыдоўленыя». Вядомы погляды рус. ератыкоў сярэдзіны 16 ст. М.Башкіна, *Арцемія*, Ф.*Касога*. Паводле Башкіна, яго настаўнікамі былі «литвянин аптекарь и другой литвянин Андрей Хотеев». Разам з Касым і Арцеміем у Віцебску прапаведавалі правасл. манахі-ератыкі Феадосій і Фама. Апошні быў таксама і ў Полацку. Захапіўшы ў 1563 Полацк, цар Іван IV загадаў утапіць Фаму. Антыпрыгонніцкі характар мела Е. віцебскага гараджаніна А.*Каладынскага*. У 2-й пал. 16 ст. ўзнікла рацыяналістычная Е. (нонадарантызм). Шляхта, некаторыя магнаты, гараджане падтрымлівалі ідэі лютэранства, кальвінізму, антытрынітарыяў, якія ў правасл. традыцыі таксама лічыліся Е. Сярод гар. беднаты былі папулярныя анабаптысцкія ідэі. Існавалі секты містыкаў-хіліястаў (Вільня). Ератычныя плыні зліваліся з рэфармацыйным рухам (гл. *Рэфармацыя*). Да 2-й пал. 16 ст. сфарміравалася ератычная плынь атэістычнага кірунку (гл. *Атэізм*). З узмацненнем нац.-рэліг. і антыфеадальнай барацьбы (канец 16—пач. 17 ст.) у правасл. царкве намеціўся ератычны рух, у якім удзельнічалі гар. рамеснікі, чаляднікі, бедныя святары. Яны самастойна вывучалі і інтэрпрэтавалі Біблію. Выразнік ідэалогіі гэтага руху С.*Зізаній*. У 17 ст. пашыраецца «сацыніянская» Е. (гл. *Сацыніянства*).

*Літ.*: Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. (Вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970; Яго ж. Беларуская думка ў кантэксце гісторыі і культуры. Мн., 2003; Голенченко Г.Я. Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVII в. Мн., 1989; Дмитриев М.В. Православие и реформация: Реформационные движения в восточнославянских землях Речи Посполитой во второй половине XVI в. М., 1990.

***Сямён Падокшын.***

**Ермаловіч** Мікалай Іванавіч (29.4.1921, в. Малыя Навасёлкі Мінскага пав., цяпер Дзяржынскі р-н—4.3.2000), беларускі гісторык і літаратуразнавец. Скончыў Мінскі пед. ін-т (1947). У 1940—47 на пед. працы ва ўстановах нар. адукацыі, у 1948—57 у Маладзечанскім настаўніцкім ін-це і Маладзечанскім абл. ін-це ўдасканалення настаўнікаў. Пасля выхаду на пенсію па зроку (1957) пачаў займацца навук. дзейнасцю. Даследаваў стараж. летапісныя крыніцы. У 1975—76 самавыдавецкім спосабам выпускаў лісток «Гутаркі», дзе закраналіся пытанні сучаснай і стараж. гісторыі Беларусі (у 1993—94 надрукаваны ў час. «Зрок»). Гал. тэмы літ. і навук. дзейнасці — гісторыя стараж. Беларусі і бел. л-ры. У гісторыі Беларусі 9—14 ст. вылучаў 3 перыяды: полацкі (9—сярэдзіна 13 ст.), навагародскі (сярэдзіна 13—пачатак 14 ст.), віленскі (1316—85). Лічыў, што слав. плямёны далі пачатак бел., укр. і велікарускай народнасцям пасля іх перасялення ва Усх. Еўропу ў залежнасці ад таго, на якой тэрыторыі яны пасяліліся і якое карэннае (неславянскае) насельніцтва суіснавала разам з імі. На яго думку, беларусы не збалтызаваныя славяне, а аславяненыя балты; асіміляцыя балтаў адбывалася на працягу ўсёй далейшай гісторыі аж да нашага часу. Меркаваў, што найгалоўнейшай з'явай этнагенезу беларусаў і фарміравання іх тэрыторыі з'яўляецца ўзаемапранікненне і змешванне дрыгавіцкага, крывіцкага і радзіміцкага насельніцтва. Палачане былі першым вынікам дрыгавіцка-крывіцкага зрашчэння, што стала грунтам, на якім узніклі Беларусь і беларусы. Паводле Е., з 9 ст. да сярэдзіны 13 ст. рэй гісторыі Беларусі вёў Полацк, потым Новагародак. Ён сцвярджаў, што неабходна адрозніваць стараж. (летапісную) Літву, якая размяшчалася ў Верхнім Панямонні ў Беларусі (прастора паміж Мінскам і Навагрудкам з У на З і паміж Маладзечнам і Слонімам з Пн на Пд), ад сучаснай Літвы («Летувы»). Звяртаўся да паліт. гісторыі стараж. зямель Беларусі (Полацкая, Тураўская, Новагародская і інш.). Дэталёва разглядзеў падзеі 9—13 ст. на аснове аналізу гіст. першакрыніц, крытычна падышоў да поглядаў многіх інш. гісторыкаў, абверг тэзіс рас. дарэвалюцыйных і сав. гісторыкаў пра заваяванне літоўцамі («летувісамі») бел. зямель у 2-й пал. 13 ст. Характарызаваў ВКЛ як бел. дзяржаву. Дзярж. прэмія Рэспублікі Беларусь 1992.

*Тв.*: Дарагое беларусам імя. Мн., 1970; Па слядах аднаго міфа. Мн., 1989 (4 выд. 2002); Старажытная Беларусь: Полацкі і новагародскі перыяды. Мн., 1990 (2 выд. 2001); Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994; Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн., 2000 (2 выд. 2003).

***Георгій Штыхаў.***

**ЕЎінская друкарня.** Існавала з 1610 да сярэдзіны 17 ст. ў мяст. Еўе каля Вільні (цяпер г. Вэвіс, Літва). Засн. праваслаўным Віленскім Святадухаўскім брацтвам ва ўладанні падкаморага троцкага, старасты брацтва Б.Агінскага. Кіравалі друкарняй *Лявонцій* Карповіч (да 1620), потым ігумен Еўінскага Успенскага манастыра друкар Г.*Івановіч*. Надрукавана больш за 25 выданняў, пераважна на царкоўнаслав. мове, у т.л. кн. «Новы запавет з Псалтырам» (1611), «Дыёптра» (1612, у перакладзе Віталія), «Два ка-




Да арт. **Еўінская друкарня**. Евангелле вучыцельнае. Еўе, 1616. Тытульны ліст.

занні» Лявонція Карповіча (1615), «Буквар славянскай мовы» (1618), «Граматыка славянская» М.Сматрыцкага (1619) і інш. 4 выданні, у т.л. «Евангелле вучыцельнае» Каліста (1616), выйшлі на бел. мове. Кнігі распаўсюджваліся на Беларусі і Украіне, часткова вывозіліся ў Расію. Дзейнасць спыніла з-за аслаблення Святадухаўскага брацтва і войнаў.

***Георгій Галенчанка.***

**Еўлашоўскі** (Еўлашэўскі) Фёдар Міхайлавіч (7.2.1546, мяст. Ляхавічы Навагародскага ваяв.—1-я пал. 1619), бел. грамадскі дзеяч і пісьменнік. З дробнамаянтковай шляхты. Самаадукацыяй набыў значныя веды ў галіне матэматыкі, справаводства і юрыспрудэнцыі. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82*



Старонка з успамінаў Ф.М.**Еўлашоўскага**.

прымаў удзел у *бітве на Уле 1564*, пасля якой пакінуў ваен. службу, пераканаўшыся ў бессэнсоўнасці вайны для ВКЛ. Далучыўся да пратэстанцтва. У Вільні ў час эпідэміі захварэў хранічнай хваробай (магчыма, т.зв. англійскай гарачкай). Быў на службе ў Жыгімонта II Аўгуста, з 1572 у М.К.Радзівіла Сіроткі. У 1576 у Торуні сустракаўся са Стафанам Баторыем. З 1577 мастаўнічы пінскі і сэрвацкі. У 1584 прымаў удзел у сесіях Ваўкавыскага, Менскага, Навагародскага і Слонімскага пав., запрошаны на пасаду судовага абвінаваўцы. У 1592 на сойміку ў Цырыне абраны падсудкам Навагародскага пав. З 1604 на службе ў Я.Г.Хадкевіча. Вядомы як аўтар першых мемуараў на бел. мове, якія пачаў пісаць у 1603, магчыма, пад уплывам дыярыуша Радзівіла «Паломніцтва да Святой зямлі». Апошні запіс у творы датуецца 1604. Першая старонка рукапісу з загалоўкам не захавалася, таму мемуары даследчыкі называюць «дзённікам», «успамінамі», «гістарычнымі запіскамі» (у найб. ступені адпавядае зместу). «Запіскі» маюць пераважна аўтабіяграфічны характар. З грамадска-паліт. падзей Е. ўпамінае тыя, удзельнікам або сведкам якіх быў сам (асобныя бітвы Інфлянцкай вайны, прыёмы манархамі Рэчы Паспалітай замежных паслоў, заключэнне Люблінскай уніі 1569, выбары каралёў), заўсёды называў удзельнікаў-землякоў. Дэталёва апісаў паўстанне пад кіраўніцтвам С.Налівайкі, выказаў яму спачуванне, але асудзіў тэрарызм і грабяжы паўстанцаў. Бачыў сваё прызванне ў служэнні заможным гаспадарам, да чаго заклікаў і сваіх дзяцей. У творы ўпамінаецца шмат прыватных асоб і звестак з іх жыцця. Значнае месца займаюць апісанні эпідэмій і пажараў, надзвычайных прыродных з'яў. Арыгінал «Запісак» захоўваецца ў Гал. архіве старaж. актаў (Варшава), фотакопія — у Ін-це мовазнаўства імя Я.Коласа Нац. АН Беларусі.

*Тв.*: Дневник новгородского подсудка Федора Евлашевского (1546—1604 г.) // Киевская старина. 1886. № 1; Pamiętnik Teodora Jewłaszewskiego, nowogródzkiego podsędka... // Antologia pamiętników polskich XVI wieku. Wrocław etc., 1966; The memoirs of Theodore Jeŭlaseŭski, assessor of Navahrudak (1546—1604) // The Journal of Byelorussian Studies. 1968. № 4; Успаміны // Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVII ст. Мн., 1983; Atsiminimai. Vilnius, 1998.

*Літ.*: Барысёнак С. Хведар Еўлашэўскі, беларускі практык-юрыст XVI в. // Полымя. 1928. № 5; Коршунаў А.Ф. Новыя даныя аб Фёдары Еўлашоўскім // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1983. № 1; Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Ляхавіцкага р-на. Мн., 1989. С. 36—41; Свяжынскі У.М. «Гістарычныя запіскі» Ф.Еўлашоўскага. Мн., 1990; Яго ж. Фёдар Еўлашоўскі (1546—1619) // Славутыя імёны Бацькаўшчыны. Мн., 2000. Вып. 1; Siekierski M. Pamiętnikarz Fedor Jewłaszewski (1546—po 1614) w świetle nowych źródeł // Studia źródłoznawcze. 1979. T. 24; Sienkiewicz W. O podsędku nowogródzkim Fedorze Jewłaszewskim raz jeszcze // Там жа. 1983. T. 28; Свяжынскі У., Спірыдонаў М.



Старонка **Еўраінаўскага летапісу**.

«Успаміны» Еўлашоўскага па-літоўску // Бел. гіст. агляд. 1998. Сш. 1.

***Уладзімір Свяжынскі.***

**Еўраінаўскі летапіс**, помнік беларуска-літоўскага летапісання, спіс 2-га беларуска-літоўскага летапіснага зводу 3-й, поўнай рэдакцыі. Збярогся ў гіст. зборніку канца 17 ст. рас. паходжання, які ў пач. 19 ст. належаў П.Еўраінаву. Летапіс пачынаецца з легендарнай гісторыі Літвы ад Палемона да Гедзіміна, падзеі 14—1-й пал. 15 ст. выкладзены паводле *Беларуска-літоўскага летапісу 1446*. У заключнай арыгінальнай частцы змешчаны пагадовыя запісы, прысвечаныя паліт. гісторыі ВКЛ з сярэдзіны 15 ст. да 1548 уключна. Зместам гэта частка блізкая да Пазнанскага спіса *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»*. Характэрная асаблівасць Е.л. — наяўнасць у ім гіст.-літаратурных матэрыялаў (аповесць пра паход Альгерда на Маскву і інш.), якія ёсць толькі ў *Хроніцы Быхаўца*. Рукапіс зберагаецца ў Рас. дзярж. архіве старaж. актаў у Маскве. Апублікаваны ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (1907, т. 17; 1980, т. 35).

*Літ.*: Улащик Н.Н. Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985. С. 65—66.





**Ёнінас** (Jonynas) Ігнас (24.1.1884, в. Ацяснінкай Алітускага р-на, Літва—14.7.1954), літоўскі гісторык, дыпламат. Праф. (1932). У 1904—11 вучыўся ў Маскоўскім, Берлінскім, Грэнобльскім ун-тах. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07 у Літве. У сак.—крас. 1919 заг. аддзела Нар. камісарыята асветы Сав. Літвы. У 1919—20 сакратар Часовага Віленскага літ. к-та. У кастр. 1920—лют. 1922 прадстаўнік Літвы ў ваеннай камісіі кантролю Лігі Нацый па справах Віленскага края. У 1922—29 працаваў у Мін-ве замежных спраў (дырэктар розных дэпартаментаў). У 1924—39 і 1944—46 выкладаў у Каўнаскім, у 1940—41 і з 1946 у Вільнюскім ун-це. Адзін з заснавальнікаў Літ. т-ва па азнаямленні з культурай народаў СССР (з 1929), член яго праўлення, у 1938—39 старшыня. Даследаваў паліт. гісторыю ВКЛ 13—16 ст., гістарыяграфію гісторыі Літвы. Аўтар кніг «Сям'я Вітаўта» («Vytauto šeimyna», Каўнас, 1932; 3 выд. Вільнюс, 1991), «На ніве гістарычнай навукі» («Istorijos baruose», Вільнюс, 1984), «Вялікія князі літоўскія» («Lietuvos didieji kunigaikščiai», Вільнюс, 1996).

**Ёхер** Адам Бенядзікт (23.12.1791, Вільня—3.4.1860), бібліёграф. У 1807—11 вучыўся ў Віленскім ун-це. У 1819—22 чл. т-ва шубраўцаў. З 1827 пам. бібліятэкара Віленскага ун-та, займаўся ўпарадкаваннем нумізматычных збораў, выкладаў лац. мову. Пасля закрыцця ун-та (1832) бібліятэкар Віленскай мед.-хірургічнай акадэміі, адначасова з 1834 працаваў у Духоўнай акадэміі, супрацоўнічаў з выданнем «Wizerunki i roztrząsania naukowe» («Адбіткі і навуковыя разгляды»). З 1844 выкладчык гімназіі ў Коўне, потым заняўся літ. працай. З 1856 чл. Віленскай археал. камісіі. Гал. праца Ё. — «Бібліяграфічна-гістарычны агляд літаратуры і навукі ў Польшчы ад увядзення друкавання да 1830 г. ... » (т. 1—3, 1840—57). Аснову працы павінен быў скласці поўны спіс друкаваных кніг, выдадзеных на землях Рэчы Паспалітай, сістэматызаваны ў 13 раздзелах (стараж. філалогія, тэалогія, філасофія, гісторыя, л-ра і інш.), з імянным і прадметным паказальнікамі; у вял. уступных артыкулах Ё. планаваў паказаць развіццё асобных навук у Рэчы Паспалітай. З запланаванай працы выйшлі толькі 3 тамы (1840, 1842, 1857). Аўтар гіст. нарысаў і даследаванняў, у т.л. «Помнікаў мовы і польска-літоўскага заканадаўства ў XIV і наступных стагоддзях» (1854).

***Наталля Мазоўка.***





**Жаба** Ігнацій (16.8.1713—17.9.1780), рэлігійны і грамадскі дзеяч ВКЛ, тэолаг, педагог. З роду *Жабаў*. У 1729 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў. Вывучаў філасофію ў Віленскай акадэміі (1731—34), тэалогію — у Варшаве (1735—41). У 1739 пасвячоны ў святары. Выкладаў паэтыку, красамоўства і філасофію ў езуіцкіх калегіумах у Ломжы (1735—36), Полацку (1736—37), Вільні (1742—43), Менску (1747—49), Нясвіжы (1749—52). Пракуратар і прэфект будаўніцтва ў Полацку (1752—53). У 1753—54 выкладаў тэалогію ў Вільні, у 1754—56 пракуратар Літоўскай правінцыі. У 1756—60 пракуратар прадстаўніцтва Рэчы Паспалітай пры генерале ордэна езуітаў у Рыме. У 1760—63 і 1774—79 рэктар Віленскай акадэміі. Узначальваў калегіумы ў Гародні (1763—66), Жодзішках (1766—69) і Браневе (1769—73). У 1773 кіраўнік езуіцкай рэзідэнцыі ў Мітаве. Канонік смаленскі. Памёр у Полацку.

***Наталля Мазоўка.***

**Жаберскі замак.** Існаваў у 17—пач. 18 ст. Размяшчаўся за 3 км на ПнЗ ад в. Жабер Пінскага пав. (цяпер Драгічынскі р-н Брэсцкай вобл.), на правым беразе р. Ясельда. Належаў князям Вішнявецкім. Прамавугольнае ў плане ўмацаванне абкружана з трох бакоў вадзяным ровам (шырыня да 20 м, глыбіня 5 м), з захаду — ракой. Быў умацаваны высокім земляным валам з бастыёнамі на вуглах і дубовым частаколам. Плошча каля 1,5 га. З наваколлем злучаўся брамай і мостам. Замак разбураны ў час Паўн. вайны 1700—21. Збярогся фундамент брамы.

***Міхась Ткачоў.***

**Жабінка** (цяпер горад, цэнтр Жабінкаўскага р-на Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь), сяліба ў Кобрынскім пав. Берасцейскага ваяв., пры ўпадзенні р. Жабінка ў Мухавец. Заснаваная ў канцы 18 ст., належала да фальварка Плошча. На працягу 16—20 ст. тут існавала некалькі сяліб, сярод якіх Малая Жабінка.

*Літ.*: Гіст.-дак. хроніка Жабінкаўскага р-на. Мн., 1999.

***Валерый Грынявецкі.***

**Жабка-Патаповіч** (Żabko-Potopowicz) Антоній (9.6.1895, в. Рудня каля Гомеля—26.4.1980), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1932), праф. звычайны. Вывучаў сельскую гаспадарку ў Лейпцыгскім ун-це і Гал. школе сельскай гаспадаркі ў Варшаве, дзе з 1928 выкладаў; у 1939—65 прафесар эканамічнай палітыкі і гісторыі лясной справы. Працаваў таксама ў Ін-це эканомікі сельскай гаспадаркі і Цэнтры гісторыі навукі і тэхнікі Польскай АН. Адзін з заснавальнікаў Польскага эканам. т-ва (1945). Працы па аграрнай палітыцы і сацыяльных адносінах у сельскай гаспадарцы ў розных краінах, у т.л. ў ВКЛ, гісторыі лясной гаспадаркі.

*Тв.*: Praca najemna i najemnik w rolnictwie w Wielkim Księstwie Litewskiem w wieku osiemnastym na tle ewolucji stosunków w rolnictwie. Warszawa, 1929; Dzieje piśmiennictwa leśnego w Polsce do roku 1939. Warszawa, 1960; Zarys rozwoju wiedzy leśnej do pierwszej wojny światowej. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968.

*Літ.*: Zeszyty naukowe SGGW. Seria Historia. 1981. Z. 17 (змешчана бібліяграфія прац Ж.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Жаброўскі** Тамаш (25.11.1714, каля Навагародка—18.3.1758), архітэктар, матэматык. Магістр філасофіі і свабодных навук (1752). Скончыў Віленскую акадэмію. У 1732 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў, у 1743 пасвячоны ў святары. Прафесар рыторыкі і паэтыкі ў Ілукшце (Курляндыя, 1745—46), прэфект будаўніцтва ў Бабруйску (1746), праф. філасофіі і прэфект бурсы ў Крожах (1746—48), міністр і прэфект будаўніцтва ў Вільні (1748—50). У 1750—52 вывучаў матэматыку, астраномію і архітэктуру ў Празе і Вене. Пасля вяртання ў 1752 у Віленскай акадэміі стварыў матэматычны і эксперыментальнай фізікі кабінеты (факультэты) і астранамічную абсерваторыю, а таксама выкладаў у ёй матэматыку і дакладныя навукі. Зрабіў спробу вызначыць геагр. шырыню Вільні. Як архітэктар распрацаваў планы шматлікіх касцёлаў і палацаў. Кіраваў будаўніцтвам касцёлаў у Бабруйску і Ілукшце, перабудовай касцёлаў св. Ігнацыя і св. Яна і будаўніцтвам астранамічнай абсерваторыі ў Вільні. Аўтар праекта касцёла бенедыкцінак у Крожах і езуіцкага калегіума ў Жодзішках.

*Літ.*: Z u b o v a s V. Uzupełnienia do biografii Tomasza Żebrowskiego // Biuletyn historii sztuki. 1978. № 3; Я г о ж. Działalność architektoniczna Tomasza Żebrowskiego // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1992. T. 5.

**Жабы**, шляхецкі род герба «Касцеша». Мелі маёнткі ў Полацкім, Віцебскім, Мсціслаўскім, Смаленскім і Навагародскім ваяв. Род паходзіць ад смаленскага баярына Канстанціна Жабы, які жыў у канцы 15 ст. і пакінуў 3 сыноў:



Сямёна, Васіля і Івана. Сенатарская галіна роду па мужчынскай лініі згасла ў 19 ст., прозвішча Ж. перайшло да роду Марцінкевічаў. У Рас. імперыі іншыя галіны роду занесены ў радаводныя кнігі Віцебскай і Ковенскай губ. Найб. вядомыя:

Сямён Канстанцінавіч (?—пасля 1541), сын Канстанціна Жабы. У 1510 атрымаў пацвярджэнне ад вял. кн. Жыгімонта I Старога на набытыя маёнткі ў Кернаўскай вол.; харужы кернаўскі ў 1526—41. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 8 вершнікаў. Меў сыноў Юрыя, Кандрата, Барыса, Багдана, Івана, дачку Ганну.

Юрый Сямёнавіч (?—пасля 1550), сын Сямёна Канстанцінавіча. Харужы кернаўскі ў 1546—50.

Барыс Сямёнавіч (?—пасля 1550), сын Сямёна Канстанцінавіча. Дваранін каралеўскі ў 1547—50.

Багдан Сямёнавіч (?—пасля 1556), сын Сямёна Канстанцінавіча. Дваранін каралеўскі ў 1549, харужы кернаўскі з 1556.

Васіль Канстанцінавіч (?—да 1547), сын Канстанціна Жабы. Падключы троцкі ў 1518—40. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 2 вершнікаў. Меў сыноў Івана, Кузьму, Ілью і дачку.

Барыс (?—?), ротмістр казацкай харугвы ў войску Стафана Баторыя, узначальваў у 1578 узяцце Дынабурга.

Ян Казімір (?—26.5.1754), сын Гераніма. Палкоўнік гусарскі, рэгіментар войска (намеснік гетмана) ВКЛ, пасол на соймы, дэпутат трыбуналаў. Ваявода менскі з 1724. У 1721 набыў маёнтак Ушачы. Пакінуў сыноў Гераніма, Станіслава, Ігнація, Дзянісія, Францішка.

Валерыян Антоній (?—16.2.1753), сын Гераніма. Харужы гусарскі, пасол на соймы, маршалак Скарбовага трыбунала ВКЛ, староста старадубскі, кашталян берасцейскі з 1731 і полацкі з 1736.

Ян (?—1747), сын Валерыяна Антонія. Староста старадубскі, палкоўнік Старадубскага пав., пасол на соймы, маршалак Скарбовага трыбунала ВКЛ.

Тадэвуш (?—1790), полацкі кашталян з 1776 і ваявода з 1784.

***Валерый Пазднякоў.***

**Жалкеўскі** (Жулкеўскі) Станіслаў (1547 ці 1550, Турынец каля Львова—7.10.1620), ваенны і дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай. З сям'і ваяводы рускага Станіслава. Вучыўся ў Львове. Гетман польны каронны (1588) і вял. каронны (1613), канцлер каронны (1617). Ваен. кар'еру пачаў у гады Гданьскай вайны 1576—77 паручнікам у харугве Я.Замойскага. Удзельнічаў ва ўсіх паходах Стафана Баторыя, у т.л. ва ўзяцці Полацка (1579), аблозе Пскова (1581). З 1590 бараніў паўд. межы Рэчы Паспалітай ад татараў і туркаў. У 1596 каля г. Лубны атрымаў перамогу над казацкімі атрадамі С.Налівайкі і ўзяў яго ў палон. У час *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* ваяваў у 1601—02 у Інфлянтах, здабыў замак Весенберг, вызначыўся ў бітве пад Рэвелем. Задушыў узбр. выступленне шляхты супраць Жыгімонта III, т.зв. *Зэбжыдоўскага рокаш 1606—09*. У час *вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18* каля в. Клушына разбіў войска кн. Дз.Шуйскага. Дабіўся згоды баяр на выбранне маскоўскім царом сына Жыгімонта III Уладзіслава, але не быў падтрыманы каралём. У 1620 узначаліў ваен. сілы Рэчы Паспалітай у вайне з Турцыяй. Загінуў у баі з туркамі на правым беразе Днястра каля г. Магілёў-Падольскі. Аўтар кнігі «Пачатак і прагрэс вайны Маскоўскай» (нап. 1612).

*Літ.*: Starża J.A. Stanisław Żółkiewski: Obraz historyczny z czasów Stefana i Zygmunta III królów. T. 1—2. Berlin, 1851; Besala J. Stanisław Żółkiewski. Warszawa, 1988; Podhorodecki L. Stanisław Żółkiewski. Warszawa, 1988.

***Валерый Шаблюк.***

**Жамойцкая рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Рашэнне пра заснаванне епархіі па ініцыятыве вял. князя Вітаўта прыняў *Канстанцкі сабор 1414—18*. Выконваючы яго пастанову, львоўскі арцыбіскуп Ян Жашоўскі і віленскі біскуп Пётр з Варты 24.10.1417 у Медніках заснавалі епархію, устанавілі кафедральны касцёл, капітул з 6 канонікаў, пасвяцілі першага жамойцкага біскупа Мацея з Вільні. У той жа дзень фундуш біскупству выдаў Вітаўт. Відаць, першапачаткова епархія падначалена папе рымскаму, з 1427 — Гнезненскай мітраполіі. Ахоплівала *Жамойць* і частку Упіцкага пав. Цэнтр — Меднікі (*Варні*). У 15—16 ст. епархія называлася таксама Медніцкай. У 15 ст. ў епархіі 19 касцёлаў, у пач. 17 ст. — каля 50 касцёлаў, у 18 ст. — каля 200 касцёлаў (разам з філіямі). З 1587 існавалі 3 дэканаты, з 1636 — 6 дэканатаў.

Біскупы жамойцкія: Мацей з Вільні (1417—22), Мікалай Камеданус (1422—34), Пётр з Львова (1434—35), Якуб з Вільні (1436—39), Барталамей з Пултуска (1439—53), Ежы з Вільні (1453—64), Мацей з Таполі (1464—70), Барталамей Свірэнкавіч (1471—82), Марцін з Жамойці (1483—92), Марцін Янавіч Лінтфар (1492—1515), Мікалай Радзівіл (1515—30), Мікалай Вязгайла (1530—33), Ежы Талят (1533), Вацлаў Вярбіцкі (1534—55), Ян Даманоўскі (1555—63), Станіслаў Наркускі (1563—64), Віктар Вярбіцкі (1565—67), Ежы Пяткевіч (1567—74), Мельхіёр Гедройц (1575—1609), Мікалай Пац (1610—18), Станіслаў Кішка (1618—26), Абрагам Война (1626—31), Мельхіёр Эляшэвіч-Гейш (1631—33), Ежы Тышкевіч (1633—49), Пётр Парчэўскі (1649—59), Аляксандр Казімір Сапега (1660—67), Казімір Пац (1667—95), Ян Геранім Крышпін-Кіршэнштэйн (1695—1708), Ян Мікалай Згерскі (1710—13), Павел Францыск Бярнард Сапега (1715), Аляксандр Мікалай Гарайн (1716—35), Юзаф Міхал Карп (1736—39), Антоній Тышкевіч (1740—62), Ян Дамінік Лапацінскі (1762—78), Стафан Ян Гедройц (1778—1802).

*Літ.*: Codex Mednicensis seu Samogitiae diocesis. P. 1—2. Roma, 1984—89; Błaszczyk G. Fundacje i fundatorzy klasztorów diecezji żmudzkiej w XVII i XVIII wieku // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1985. T. 1; Яго ж. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Uposażenie. Poznań, 1992; Яго ж. Diecezja żmudzka od XV do początku XVII w.: Ustrój. Poznań, 1993.

***Валерый Пазднякоў.***

**Жамойцкія паўстанні**, узброеныя выступленні жыхароў Жамойці.

Паўстанне 1401 выклікана незадавальненнем палітыкай улад Нямецкага ордэна, якому Жамойць перададзена паводле *Салінскага дагавора 1398*. Жамойты адрэзалі крыжакоў ад асноўных сіл і спалілі іх 2 новыя замкі. Была захоплена Клайпеда (Мемель). Асаблівая ўпарта засіллю крыжакоў, увядзенню паншчыны супраціўляліся свабодныя сяляне, якія складалі большасць насельніцтва краю. Пасля выгнання крыжакоў Жамойць аб'ядналася з ВКЛ. Аднак на баку ордэна выступіў князь Свідрыгайла, войска якога разам з крыжацкім дайшло да Вільні (1402). Намаганні вял. князя літоўскага Вітаўта захапіць Жамойць не мелі поспеху. Паводле *Рацёнжскага дагавора 1404* Жамойць зноў перададзена Нямецкаму ордэну.

Паўстанне 1409 стала працягам ранейшай барацьбы жамойтаў з



Аўтар В.Л.Насевіч

крыжакамі. Пачалося 31 мая. Яго неафіцыйна падтрымаў Вітаўт, які праслаў на дапамогу атрад коннікаў. Паўстанцы выгналі крыжакоў з гал. замкаў і пачалі наступленне на Клайпеду. Вызваленая Жамойць прызнала ўладу Вітаўта. У руках Нямецкага ордэна засталіся прыбярэжныя землі з Клайпедай. Дапамога ВКЛ жамойтам стала адной з прычын *Вялікай вайны 1409—11* і *Грунвальдскай бітвы 1410*.

Паўстанне 1418 выклікана ўзмацненнем феад. эксплуатацыі былых вольных дзярж. сялян на землях, падараваных Вітаўтам жамойцкім баярам, і ўвядзеннем павіннасцей на карысць каталіцкай царквы (пасля пачатку хрышчэння жамойтаў у 1413). Паўстанне пачалося ў Расейнскай вол., пасля ахапіла Медніцкую і Кнетаўскую валасці. Сяляне нападалі на баяр, рабавалі іх маёнткі, палілі касцёлы. Была зроблена спроба захапіць Клайпеду. Вітаўт і жамойцкі стараста Кезгайла (Міхал) паўстанне хутка падавілі, шмат яго ўдзельнікаў пакарана смерцю. Гэта было першае антыфеад. паўстанне сялян ВКЛ.

Паўстанне 1535—37 было вынікам праведзенай вял. князем Жыгімонтам Старым замены ў некат. жамойцкіх валасцях натуральнага аброку і павіннасцей грашовымі паборамі. З-за слабага развіцця таварнай вытворчасці і гандлю ў сялян узніклі цяжкасці з выплатай грошай. Нарада кіраўнікоў паўстанцаў адбылася ў Цельшах. Сяляне забівалі намеснікаў, цівуноў, баяр. Паўстанне было задушана татарскімі атрадамі войска ВКЛ.

**Жамойць**, гістарычная вобласць і адм.-тэр. адзінка ў складзе ВКЛ. Палітоўску назва азначае «ніжняя», што, найб. верагодна, ужывалася для абазначэння зямлі, ніжэйшай па цячэнні Нёмана за ўласна Літоўскую зямлю (*Аўкштайцію*). Польская назва Ж. — Жмудзь (Żmudź), лацінская — Самагіція (Samogitia). У 1-й пал. 13 ст. Ж. кіравалася мясц. дынастыяй, якая знаходзілася ў паліт. залежнасці ад дынастыі ўсх. Літвы (уласна Літоўскай зямлі ў вузкім сэнсе). У «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага назва Ж. не сустракаецца, а сумежныя з уладаннямі Лівонскага ордэна землі называюцца Літвой. Упершыню Ж. ускосна згадваецца ў *дагаворы 1219*, калі 2 з князёў, што падпісалі яго, Эрдзівіл і Выкінт, названы жамойцкімі. У дакуменце 1413 адзначана, што Ж. з'яўляецца вотчынай уладароў Літвы 168 гадоў — г.зн. з 1245. Магчыма, тады адбылося істотнае змяненне статусу жамойцкіх князёў у адносінах да гал. літоўскай дынастыі, на чале якой стаяў *Міндоўг*. Каля 1250 Выкінт стаў адным з удзельнікаў мяцяжу супраць Міндоўга, што выклікала паход апошняга на рэзідэнцыю Выкінта Тверымет (Цверы). Пасля прыняцця каталіцтва Міндоўг у 1253 падараваў Лівонскаму ордэну шэраг валасцей у Ж., якая на той час займала землі па рэках Дубіса і Юра (Бетыгола, Айрагола, Расейны, Крожы, Лукаў, Каршова). Абшары далей на З і ПнЗ да ўзбярэжжа Балтыйскага мора і сучаснай граніцы з Латвіяй (Цэкліс, Паланга) былі заселены куршамі, а валасць Памемунь на Пд ад Нёмана належала да Судавы (Яцвягіі). У 1260 Міндоўг падтрымаў паўстанне супраць ордэна, якое ўспыхнула ў Ж., пасля чаго ўладу там атрымаў сын яго сястры *Транята*. У 1263 апошні пасля забойства Міндоўга атрымаў вярхоўную ўладу, пад якой аб'ядналіся Літва і Ж. У падзеях наступных дзесяцігоддзяў яны палітычна ўтваралі адно цэлае, але памяць пра ранейшую самастойнасць Ж. трывала захоўвалася. Пра пэўную этнічную адметнасць жыхароў Ж. сведчыць выраз «літоўцы і жамойты» (Littoven und Sameiten), які ўжыты ў «Старэйшай рыфмаванай хроніцы» пры апісанні падзей 1250-х г. Такое ж адрозненне сустракаецца і ў рус. летапісах: у паходзе на Рыгу ў 1286 удзельнічалі «Литва вся и Жемоть вся», у паходзе Альгерда на Пераяслаў у 1373 — «Литва и Ляхи и Жемоть». У інш. крыніцах Ж. выступае як састаўная частка Літвы, якая супрацьпастаўляецца Аўкштоце (*Аўкштайціі*). Упершыню супрацьпастаўленне Ж. і Аўкштоты як 2 частак уладанняў «літоўскага караля» ўжыта Пятром з Дусбурга пры апісанні падзей 1294—1300, а затым у *дагаворы 1323* паміж *Гедзімінам* і Лівоніяй. На



працягу 14 ст. Ж. моцна цярпела ад нападаў рыцараў Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў. Памежныя з Лівоніяй паўн. ўскраіны Ж., у т.л. воласць Шаўлі (вядома з сярэдзіны 13 ст.) у 2-й пал. 14 ст. практычна апусцелі. Экспансія Тэўтонскага ордэна ажыццяўлялася пераважна ўздоўж Нёмана, паміж вусцямі Юры і Дубісы. Ужо ў 1259 у зямлі Каршова быў заснаваны тэўтонскі замак Юргенбург (Юрбарк), у 1313 вышэй па Нёмане — Хрыстмемель (Скірстымонь). З канца 13 ст. межы абароны ВКЛ на Пд Ж. ляжалі ў воласці Вялена (Юнігеда), якая з 1333 неаднаразова пераходзіла з рук у рукі, канчаткова захоплена крыжакамі ў 1367. У час усобіцы ў ВКЛ у 1382 амаль уся Ж. трапіла пад кантроль Тэўтонскага ордэна. На той час яна складалася з валасцей (земель), за якімі крыжакі захавалі пэўнае самакіраванне: Меднікі (у цэнтр. Ж., пазней падзялілася на воласці Цверы, Шадаў, Павандэны, Каркляны і, відаць, Ужвены), Крожы (на У ад Меднікаў), Калтыняны (у былой зямлі Каршова на Пд ад Меднікаў), Кнетува (на ПнУ, падзялілася на воласці Бержаны, Патумшы, Вял. і Малыя Дырвяны), Відуклі, Расейны і Айрагола (на ПдУ). Ордэнская адміністрацыя размяшчалася ў замку Фродэбург на тэрыторыі раней заваяванай воласці Вялена. У складзе ВКЛ засталіся толькі воласці на У ад р. Дубіса: Ясвойна, Тандзягола і, відаць, панямонскія Постаў, Гойжава і Пярнараў (пазней утварылі воласць Вількія). У 1392 Вітаўт прыняў тытул вял. князя літоўскага і жамойцкага, але ў 1398 прызнаў права Тэўтонскага ордэна на Ж.

Кантроль ВКЛ над усёй Ж. вернуты ў выніку паўстання 1409—11 і замацаваны *Трунскім мірам 1411* і *Мельнскім мірам 1422*. Напэўна, тады да Ж. далучаны на З і ПнЗ воласць Паланга і былая зямля Цэкліс (падзялілася на воласці Біржыняны, Цельшы, Вейшвяны, Плоцелі, Жараны, Медынгяны, Гондынга, Рэтаў), а таксама былая воласць Памемунь за Нёманам (падзелена паміж валасцямі Вялена і Вількія). Пачалася інтэнсіўная каланізацыя запусцелых ускраінных валасцей на З (у былой зямлі Цэкліс), Пн (Шаўлі, Дырвяны) і Пд (Паюры, Каршова, Вялена). Каталіцтва ў Ж. афіцыйна ўведзена ў 1413, у 1417 створана *Жамойцкая рымска-каталіцкая епархія* з цэнтрам у Медніках. Гал. адміністратарамі ў Ж. былі старасты (генеральныя старасты), які ўваходзілі ў склад Рады ВКЛ, а пасля — Сената Рэчы Паспалітай. Першым старастам (намеснікам) быў Румбольд Валімунтавіч. У 1412—32 гэтую пасаду займаў яго брат Кезгайла. Ён атрымаў вял. падараванні ад Вітаўта (Крожы, Плоцелі, Шаўляны), якія паклалі пачатак латыфундыям роду *Кезгайлаў*. У 1418 адбылося паўстанне супраць паскоранага насаджэння каталіцтва. У 1440 пасля абрання вял. князем Казіміра ў Ж. успыхнуў новы мяцеж, мясц. баярства стала на бок іншага прэтэндэнта на трон — *Міхаіла Жыгімонтавіча*. Вынікам паўстання стала наданне Ж. прывілея 1441, у якім ёй гарантаваўся федэратыўны статус. З гэтага часу поўная афіцыйная назва ВКЛ абавязкова змяшчала і назву Ж., якая традыцыйна называлася зямлёй, але фактычна была роўнай ваяводству. Ж. называлі таксама княствам. Федэратыўныя правы Ж. пацверджаны земскімі прывілеямі 1492 і 1507. Пасада старасты ў 1445 вернута роду Кезгайлаў і заставалася ў руках яго прадстаўнікоў да 1532. Адміністрацыйна Ж. падзялялася на воласці (паветы), на чале якіх стаялі цівуны: Айрагола, Бержаны, Біржыняны, Вейшвяны, Відуклі, Вількія, Вялена, Вял. Дырвяны, Гондынга, Жараны, Каркляны, Каршова, Кельмы (пасля 1529 далучана да Крожаў), Крожы, Малыя Дырвяны, Медынгяны, Павандэны, Паланга, Патумшы, Паюры, Плоцелі, Расейны, Рэтаў, Цельшы, Тандзягола, Ужвены, Цверы, Шадаў, Шаўлі, Ясвойна. Такі падзел і знешнія межы заставаліся нязменнымі да канца існавання ВКЛ. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 Ж. захавала тытул зямлі, але атрымала той жа склад ураднікаў, як усе ваяводствы. Кашталян жамойцкі атрымаў месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай. Земскія ўрады размяшчаліся ў Расейнах. Першым кашталянам стаў М.Шэмет, суддзёй земскім — С.Вяковіч. Плошча Ж. складала каля 19 тыс. км², колькасць дымоў у 1650 налічвала больш за 49 тыс., што адпавядала колькасці насельніцтва каля 330 тыс. чал. Шчыльнасць насельніцтва ў Ж. (17,4 чал./км²) была адной з самых высокіх у ВКЛ. У 1655 Ж. была занята шведскімі войскамі і моцна пацярпела. Колькасць дымоў на 1667 скарацілася да 34 тыс. У 2-й пал. 18 ст. колькасць насельніцтва Ж. вярнулася да ўзроўню сярэдзіны 17 ст. Сойм 1793 пастанавіў стварыць Жамойцкае ваяв., але практычна гэта не рэалізавана. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Ж. увайшла ў склад Рас. імперыі, акрамя паўд.-ўсх. раёнаў за Нёманам, якія далучаны да Прусіі.

Старасты жамойцкія: Румбольд Валімунтавіч (1409—11), Кезгайла Валімунтавіч (1412—32, 1440, 1445—49), Галімін Надабайтавіч (1433—34), Контаўт (1436—41), Гедыгольд (прыблізна ў 1441—44), Ян Кезгайлавіч (1449—85), С.Я.Кезгайла (1486—1527), С.С.Кезгайла (1527—32), П.С.Кішка (1532—34), Я.М.Радзівіл (1535—42), М.В.Клочка (1542—43), Ю.М.Білевіч (1543—44), Г.А.Хадкевіч (1545—61), Я.Г.Хадкевіч (1564—79), Я.С.Кішка (1579—89), Ю.Ю.Хадкевіч (1590—95), С.М.Радзівіл (1595—99), Я.К.Хадкевіч (1599—1616), Г.Р.Валовіч (1619—36), Я.А.Ласкі (1643—46), Я.Радзівіл (1647—53), Е.К.Глябовіч (1653—68), А.Г.Палубінскі (1669), В.К.Млечка (1670—79), К.Я.Сапега (1681—82), П.М.Пац (1684—96), Р.Агінскі (1698—1709), К.Заранка-Гарбоўскі (1710—29), Ю.Б.Тышкевіч (1742—54), Я.М.Хадкевіч (1765—81), А.А.Гелгуд (1783—95).

Кашталяны жамойцкія: М.С.Шэмет (1566—70), М.С.Тальваш (1570—88), М.М.Нарушэвіч (1588—1603), Галоўчынскі (1604—14), А.М.Тальваш (1614—28), А.Слушка (1628—33), М.Весялоўскі (1633—34), Я.А.Ляцкі (1634—43), Ю.А.Храптовіч (1643—45), А.Нарушэвіч (1645—53), А.Кірдзей (1653—61), Я.Т.Кунцэвіч (1661—64), С.В.Орда (1664—85), В.А.Гротус (1685—1709), А.Ю.Уніхоўскі (1709—22), Е.Г.Крышпін-Кіршэнштэйн (1722—36), Ю.Тышкевіч (1737—42), Ю.А.Салагуб (1742—48), Ю.Пац (1748—64), Я.М.Гурскі (1766—76), А.А.Гелгуд (1776—83), С.Тышкевіч (1783—95).

*Літ.*: Спрогис И.Я. Географический словарь древней Жомойтской земли XVI столетия, составленный по 40 актовым книгам россиенского земского суда. Вильна, 1888; Halecki O. Litwa, Ruś i Żmudź jako części składowe Wielkiego księstwa Litewskiego. Kraków, 1916; Zajączkowski S. Studya nad dziejami Żmudzi wieku XIII. Lwów, 1925; Błaszczyk G. Żmudź w XVII i XVIII wieku: Zaludnienie i struktura społeczna. Poznań, 1985; Łowmiański H. Geografia polityczna Bałtów w dobie plemiennej // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1985. T. 1; Meilus E. Žemaitijos kunigaikštystės miesteliai XVII amžiaus II pusėje—XVIII amžiuje: (Raida, gyventojai, amatai, prekyba). Vilnius, 1997; Mackavičius A. Žemaitijos valsčių surašymas 1537—1538 m. / Parengė K.Jablonskis. Vilnius, 2003.

***Вячаслаў Насевіч.***



**Жахоўскі** Кіпрыян (Цыпрыян; каля 1635, Полацкае ваяв.—кастр. 1693), дзеяч уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай. Са шляхецкага роду герба «Бродзіч». Першапачаткова рыма-католік, уступіў у ордэн базыльян. Вучыўся ў Грэчаскім калегіуме ў Рыме (1658—64), д-р тэалогіі. Аўдытар пры мітрапаліце Г.Календзе (з 1667), архімандрыт Лешчанскага манастыра, каад'ютар (намеснік) мітрапаліта ў 1671—74, адміністратар Перамышльскай епархіі (1670), архімандрыт Дзерманскага і Дубенскага манастыроў на Валыні. У 1674—93 архіепіскап полацкі, мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі. Для пашырэння уніі выкарыстоўваў адм. сродкі і нават прымус. Удзельнік склікання ў



К.**Жахоўскі**.

Любліне з'езда уніятаў і праваслаўных (1680), які апісаў у кнізе «Люблінскі калёквіум...» (Замосце, 1680, на польск. мове). Імкнуўся абмежаваць у царкве ўплыў базыльян, вывеў з іх падпарадкавання шэраг манастыроў, у 1683 на базыльянскім капітуле ў Менску зняў з пасады протаархімандрыта (генерала) ордэна С.Мартышкевіча і прымусіў абраць на яго месца сябе. Аднак пры падтрымцы рымскай курыі і караля пастановы Менскага капітула былі скасаваны. Навагародскі (1686) капітул базыльян забараніў мітрапалітам займаць пасаду галавы ордэна і ўмешвацца ў яго ўнутр. справы. У пач. 1690-х г. заснаваў *Супрасльскую друкарню*. Выдаў уніяцкі «Служэбнік» (Вільня, 1692; Супрасль, 1695). Прыхільнік лац. запазычанняў ва уніяцкім набажэнстве. Ахвяраваў сродкі на рамонт храмаў у Вільні, Навагародку, Полацку. Аўтар казанняў, прысвечаных І.*Кунцэвічу*. Таленавіты прапаведнік.

*Літ.*: Коялович М. История базилианского ордена // Христианское чтение. 1864. Ч. 1; Бантыш-Каменский Н. Историческое известие о возникшей в Польше унии... 2 изд. Вильна, 1866; Likowski E. Historya unii kościoła Ruskiego z kościołem Rzymskim. Poznań, 1875.

***Сяргей Казуля.***

**Ждановіч** Казімір, прыдворны архітэктар і будаўнік князёў Радзівілаў у 1-й пал. 18 ст. ў Нясвіжы. Прадстаўнік архітэктуры барока. Аднавіў і перабудаваў Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс (пасля 1726), пабудаваў палацавую капліцу (1740), тэатр Радзівілаў «камедыхаўз» (1747—48).

**Жлобін** (цяпер горад, цэнтр Жлобінскага р-на Гомельскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Рэчыцкім пав. Менскага ваяв., на р. Дняпро. Відаць, паселішча існавала ўжо ў 15 ст., тады ж пабудаваны *Жлобінскі замак*. Ж. уваходзіў у *Рагачоўскую воласць*. У вайну Маскоўскай дзяржавы з ВКЛ 1534—37 разбураны. Паводле адм.-тэр. рэформы 1565—66 у складзе Рэчыцкага пав. Менскага ваяв. У Інфлянцкую вайну 1558—82 у 1563 тром полацкім шляхціцам замест занятых рас. войскамі маёнткаў часова аддадзены са складу Рагачоўскай воласці сёлы Звонец і Хлобін (відаць, сучасны Ж.). *У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1564—67* у ліп. 1654 спалены войскамі І.*Залатарэнкі*. 14.10.1654 у данясенні магілёўскага ваяводы М.Ваейкава цару Ж. названы мястэчкам. У 18 ст. цэнтр маёнтка. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Жлобіна і Жлобінскага р-на. Мн., 2000.

***Валерый Грынявецкі.***

**Жлобінскі замак.** Існаваў у 15—17 ст. у мяст. *Жлобін*. Размяшчаўся на правым беразе Дняпра, на адлегласці каля 100 м ад упадзення ў яго ручая Чорначка. У 15—16 ст. належаў Хадкевічам. Складаўся з уласна замка (60 × 50 м, авальны ў плане) і падзамка (130 × 60 м, выцягнуты з Пн на Пд). Падзамак быў размешчаны на 1,5—2 м ніжэй за замкавы дзядзінец. Увесь комплекс узвышаўся на 3—4 м над прырэчнай жылой зонай Жлобіна. Ж.з. быў умацаваны земляным валам (цяпер знівеліраваны) і драўлянымі сценамі-гароднямі з вежамі і брамамі. У ліп. 1654 казакі ўкр. гетмана І.Н.*Залатарэнкі* ўзялі штурмам і спалілі замак. Больш позніх звестак пра Ж.з. не выяўлены.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Замкі і людзі. Мн., 1991. С. 152.

***Міхась Ткачоў.***

**Жмудзь**, гл. *Жамойць*.

**Жодзішкаўскі езуіцкі калегіум**. Дзейнічаў у Жодзішках (цяпер вёска ў Смаргонскім р-не Гродзенскай вобл.) у 1709—77. Актам фундацыі ад 15.2.1708 Барбара Міцкевіч адпісала на стварэнне калегіума свае маёнткі, у т.л. Жодзішкі. Навучальны працэс пачаўся ў 1709. У 1740, 1756 і 1777 у ім часова выкладалі філасофію свецкім слухачам. З 1745 дзейнічала муз. бурса. Мелася невял. б-ка, з 1767 працавала аптэка. Першапачаткова калегіум размяшчаўся ў 3 карпусах, злучаных галерэямі, мелася капліца. У 1757—70 пабудаваны новы аднапавярховы будынак паводле праекта Т.*Жаброўскага*. Спачатку езуіты карысталіся парафіяльным касцёлам Св.Тройцы. У 1722—25 пабудаваны драўляны касцёл св. Іуды Фадзея (асвячоны ў 1727). Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1777 будынак калегіума перароблены пад сядзібу.

***Валерый Грынявецкі.***

**Жодзішкаўскі кальвінскі збор**, помнік архітэктуры рэнесансу. Пабудаваны ў 1612 у в. Жодзішкі (цяпер вёска ў Смаргонскім р-не Гродзенскай вобл.). Спачатку быў 1-нефавы прамавугольны ў плане храм без апсіды, з 2-яруснай чацверыковай вежай-званіцай на гал. фасадзе. Пры перабудове да нефа прыбудаваны вял. прамавугольныя ў плане бакавыя капліцы з 3-вугольнымі шчытамі ў завяршэнні тарцовых сцен, зменена арыентацыя храма на процілеглую (вежа апынулася над прэсбітэрыем, зруйнавана ў 1-ю сусв. вайну). Цяпер — мураваны крыжападобны ў плане 1-нефавы будынак з больш нізкай квадратнай у плане алтарнай апсідай з сакрыстыяй з Пн і вуглавымі контрфорсамі. Неф і капліца накрыты 2-схільнымі дахамі. Гал. фасад вырашаны плоскасна, завершаны шчытом, партал увахода аформлены рустыкай. Сцены расчлянёны плоскімі лапаткамі, прарэзаны лучковымі вокнамі і нішамі, завершаны прафіляваным карнізам. Унутры неф перакрыты цыліндрычным, капліцы — крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам — хоры. Скляпенні капліц упрыгожаны размалёўкай (1-я пал. 20 ст., маст. П.Сергіевіч). Цяпер касцёл.

***Аляксандр Міцянін, Аляксандр Ярашэвіч.***

**жорнавае**, жарнаўшчына, падатак з сялян у ВКЛ за права мець уласныя жорны і вырабляць на іх крупы. Збіралася

з усіх сялян воласці, якія мелі жорны; памеры падатку ваганіся. Напр., у Копыскім графстве да 1756 складала 1/8 бочкі жыта і 1/8 бочкі аўса, пасля 1756 — 1 тынф з дыма на год. Звычайна спаганялася арандатарамі панскіх млыноў.

*Літ.*: Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в. Мн., 1982. С. 61.

***Валерый Пазднякоў.***

**Жугжда́** (Žiugžda) Юозас (1.3.1893, в. Пліняй Марыямпальскага р-на, Літва—27.3.1979), літоўскі гісторык. Акад. АН Літ. ССР (1946), д-р гіст. навук (1963), праф. (1945). Засл. дзеяч навукі Літ. ССР (1959). Скончыў Каўнаскі ун-т (1929). У 1911—15, 1920—40 настаўнік. У 1918 працаваў у Нар. камісарыяце па нац. і замежных справах Кубана-Чарнаморскай Сав. Рэспублікі (пасля Паўн.-Каўказскай Сав. Рэспублікі). У канцы 1918 у Савеце нар. гаспадаркі Маскоўскай губ., у пач. 1919 у Нар. камісарыяце асветы Сав. Літвы (пасля Літ.-Бел. ССР). У 1940—41 нам. наркома, у 1943—48 нарком, міністр асветы Літ. ССР. У 1944—69 выкладаў у Вільнюскім ун-це, у 1944—49 і 1965—69 заг. кафедры гісторыі Літ. ССР, у 1949—60 — кафедры гісторыі СССР. У 1946—66 віцэ-прэзідэнт АН Літ. ССР. У 1948—70 дырэктар Ін-та гісторыі АН ЛітССР. У 1949—64 чл. ЦК КП Літвы. У 1946—50 дэпутат Вярх. Савета СССР, у 1947—71 — Вярх. Савета ЛітССР. З імем Ж. звязана ўкараненне марксісцка-ленінскай канцэпцыі гісторыі Літвы, ідэалагічных догмаў у гіст. навуку Літвы. Працы па гісторыі Літвы 13—20 ст., барацьбе ВКЛ з крыжакамі, рэв. барацьбе і ўстанаўленні сав. улады ў Літве. Аўтар кніг «Рэакцыйнае каталіцкае духавенства — адвечны вораг літоўскага народа» («Reakcinė katalikų dvasininkija — amžinas lietuvių tautos priešas», Вільнюс, 1948), «Экспансія каталіцкай царквы ў Прыбалтыку і Усходнюю Еўропу» («Katalikų bažnyčios ekspansija į Pabaltiją ir į Rytų Europą», Вільнюс, 1962), «Адносіны літоўскага і рускага народаў у ходзе гістарычнага развіцця» («Lietuvių ir rusų tautų santykiai istorinio vystymosi eigoje», Вільнюс, 1964). Адзін з аўтараў кнігі «Вайна Літвы з крыжакамі» («Lietuvių karas su kryžiuočiais», Вільнюс, 1964). Адзін з аўтараў і гал. рэдактар прац «Гісторыя Літоўскай ССР» («Lietuvos TSR istorija», т. 1—4, Вільнюс, 1957—75), «Гісторыя Літоўскай ССР: З найстаражытных часоў да 1957 года» («Lietuvos TSR istorija: Nuo seniausių laikų iki 1957 metų», Вільнюс, 1958). Гал. рэдактар зборніка «Дакументы і матэрыялы па гісторыі Літоўскай ССР» (т. 1—4, Вільнюс, 1955—65). Аўтар падручнікаў па літ. мове для школ. Дзярж. прэмія Літ. ССР (1958).

*Тв.*: Развитие культуры литовского народа: До конца XV в. // Очерки истории СССР: Период феодализма, IX—XV вв. М., 1953. Ч. 2; Историческое значение присоединения Литвы к России в конце XVIII—начале XIX в. // Исторические записки. М., 1954. Т. 46; Rozwój stosunków przyjazni między narodami litewskim i polskim. Warszawa, 1962; Советская историография Литвы. Вильнюс, 1966 (з А.Ю.Гайгалайтэ); Rinktiniai raštai. T. 1—2. Vilnius, 1986.

*Літ.*: Kurliandskienė B. Juozas Žiugžda: Literaturos rodyklė. Vilnius, 1974.

**Жуко́віч** Платон Мікалаевіч (26.9.1857, г. Пружаны—30.11.1919), беларускі гісторык. Чл.-кар. Рас. АН (1918), д-р царк. гісторыі (1901), праф. (1894). З сям'і святара. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1881). Выкладаў у Полацкім духоўным вучылішчы, у Вільні, з 1891 у Пецярбургскай духоўнай акадэміі. У 1918 у Петраградзе ўваходзіў у Бел. вольнаэканамічнае т-ва. Даследаваў рэліг. адносіны ў Рэчы Паспалітай, палітыку Расіі ў Беларусі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Знаходзіўся на пазіцыях рас. афіцыйнай гістарыяграфіі, сцвярджаў, што правасл. насельніцтва ВКЛ заўсёды імкнулася пад уладу рас. цара. Падзелы Рэчы Паспалітай разглядаў як вырашэнне Рас. дзяржавай адной са сваіх галоўных задач — аб'яднання трох галін рус. народа.

*Тв.*: Кардинал Гозий и польская церковь его времени. СПб., 1882; Об основании и устройстве главной духовной семинарии при Виленском университете (1803—1832 гг.). СПб., 1887; О профессорах богословского факультета Виленского университета в настоящем столетии. СПб., 1888; Борьба против унии на современных ей литовско-польских сеймах (1595—1600 гг.). СПб., 1897; Сеймовая борьба православного западнорусского дворянства с церковной унией. Вып. 1—6. СПб., 1901—12; Брестский собор 1591 года: (по новооткрытой грамоте, содержащей деяния его) // Изв. Отделения рус. языка и словесности Императорской АН. СПб., 1907. Т. 12, кн. 2; Неизданное русское сказание о Жировицкой иконе Божией Матери: (в связи с историей русского дворянского рода Солтанов Жировицких) // Там жа. 1912. Т. 17, кн. 2.

*Літ.*: Пальмов И. Записка об ученых трудах профессора П.Н.Жуковича // Изв. Рос. АН. 1919. Сер. 6. Т. 13. № 1.

***Валянціна Яноўская.***



**Жыгімонт I** Стары.
Мастак Ганс з Кульмбаху.

**Жыгімонт I** Стары (у ВКЛ Жыгімонт II; 1.1.1467, Казяніцы Радамскага пав., Польшча—1.4.1548), вялікі князь літоўскі і кароль польскі [1506—48]. Сын *Казіміра IV*, унук *Ягайлы*. Атрымаў добрую адукацыю, валодаў некалькімі мовамі. Атрымаў у Сілезіі ад старэйшага брата, караля Чэхіі і Венгрыі Уладзіслава II, Глогаўскае (1498) і Апаўскае (1501) княствы, у 1504 прызначаны каралеўскім намеснікам Сілезіі, потым Лужыцы. Пасля смерці вял. князя літоўскага Аляксандра абраны панамі-радай на велікакняжацкі пасад (20.10.1506). Нягледзячы на апазіцыю малапольскіх сенатараў, абраны і польскім каралём (8.12.1506). Адмовіўся ад сілезскіх княстваў, залежных ад чэшскага караля. Унутраная палітыка Ж. I была накіравана на ўмацаванне дзярж. улады, аднак вайсковыя і фінансавыя рэформы, спробы рэдукцыі (вяртання) каронных маёнткаў, захопленых магнатамі, не мелі вял. поспеху. У 1537 супраць Ж. I і магнатаў сярэдняя шляхта Польшчы ўзняла феад. мяцеж («Курыная вайна»). Шляхта ВКЛ юрыдычна дамаглася роўных правоў з магнатамі: быў уведзены адзіны кодэкс законаў для дзяржавы — *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529*. Ж. I праводзіў актыўную знешнюю палітыку. Быў вымушаны весці абарончыя войны з Маскоўскай дзяржавай (гл. *Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1507—08, Вайна Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1512—22, Вайна Вялікага княства*

*Літоўскага з Маскоўскай дзяржавай 1534—37*), у выніку якіх быў страчаны Смаленск. Для адбіцця нападаў крымскіх татараў на Украіне была створана памежная варта з мясц. жыхароў — *казакі*. У час перамогі Рэфармацыі ў Прусіі Ж. І згадзіўся на секулярызацыю Тэўтонскага ордэна і ўтварэнне на яго тэрыторыі васальнага ў адносінах да Польшчы Прускага герцагства на чале са сваім пляменнікам *Альбрэхтам*. Пры Ж. І пасля загадкавай смерці апошніх удзельных мазавецкіх князёў з Польшчай было ўз'яднана Мазавецкае княства (1526, канчаткова ў 1529). Праводзячы антыгабсбургскую палітыку, Ж. І заключыў саюзы з Францыяй (1524) і Турцыяй (1533). У 1531 у барацьбе за Пакуцце (Пд Галіцыі) Польшча атрымала перамогу над малдаўскім кн. Пятром Рарэшам. Актыўную ролю адыгрывала ў палітыцы другая жонка (з 1518) Ж. І *Бона*, якая намагалася замацаваць кароны ВКЛ і Польшчы за сваім сынам *Жыгімонтам II Аўгустам*, дзеля чаго было праведзена яго абранне намінальным другім вял. князем і каралём (1529). У час панавання Ж. І шырока распаўсюдзілася ў Польшчы і ВКЛ Рэфармацыя ў розных яе плынях, што садзейнічала далейшаму ўздыму гуманізму і пісьменства.

*Літ.*: Finkiel L. Elekcya Zygmunta I: Sprawy dynastyi Jagiellońskiej i unii polsko-litewskiej. Kraków, 1910; Wojciechowski Z. Zygmunt Stary (1506—1548). 2 wyd. Warzsawa, 1979; Wyczański A. Zygmunt Stary. Warszawa, 1985; Kolankowski L. Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne. 3 wyd. Olsztyn, 1991.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Жыгімонт II Аўгуст** (у ВКЛ Жыгімонт III Аўгуст; 1.8.1520, Кракаў—7.7.1572), вялікі князь літоўскі і кароль польскі [1548—72, фармальна з 1529]. Сын *Жыгімонта I* Старога і *Боны* Сфорца. У 1522 сойм ВКЛ даў гарантыю Жыгімонту I, што пасля яго смерці Ж. II А. будзе абраны вял. князем. У 1526 пасля смерці апошніх мазавецкіх князёў Бона намагалася перадаць мазавецкі ўдзел Ж. II А., але Мазавецкае княства было далучана да Кароны. На сойме ВКЛ у кастр. 1529 Ж. II А. абраны вял. князем пры жыцці бацькі (г.зн. другім вял. князем). 18.12.1529 на польскім сойме Жыгімонт I дамогся абрання сына польскім каралём (каранаваны 20.2.1530). Рэальная ўлада засталася ў руках бацькі. Для ўстанаўлення сяброўскіх адносін са Свяшчэннай Рымскай імперыяй Жыгімонт I у 1543 арганізаваў шлюб Ж. II А. з эрцгерцагіняй Лізаветай, дачкой наследніка імператарскага трона Фердынанда (памерла ў 1545). У 1544 Ж. II А. фактычна пачаў кіраванне ў ВКЛ, куды Жыгімонт I не прыязджаў, але захаваў сваё вяршэнства з правам кантролю за расходамі з велікакняжацкага скарбу. У 1547 Ж. II А. ажаніўся з *Барбарай* Радзівіл. У выніку шлюбу браты Барбары М.*Радзівіл* Руды і М.*Радзівіл* Чорны занялі кіруючае становішча ў ВКЛ, пэўны час Ж. II А. знаходзіўся пад іх уплывам. Супраць шлюбу былі Жыгімонт I, Бона і значная частка польскіх магнатаў. Пасля смерці бацькі ў 1548 Ж. II А. стаў паўнапраўным вял. князем і каралём. Заключыў тайны трактат аб узаемнай дапамозе з каралём Чэхіі і Венгрыі Фердынандам Габсбургам. Гэты саюз быў прадоўжаны, калі пасля смерці Барбары (1551) Ж. II А. ажаніўся з эрцгерцагіняй Кацярынай, сястрой сваёй першай жонкі. У далейшым адышоў ад саюзу з Габсбургамі. Знешняя палітыка Ж. II А. была накіравана на захаванне



**Жыгімонт II Аўгуст**. Карціна з майстэрні Л.Кранаха Малодшага. Сярэдзіна 16 ст.

мірных адносін з суседнімі краінамі. Прусія заставалася васальнай дзяржавай у дачыненні да польскага караля. Адносіны са Швецыяй палепшыліся, калі там у 1568 трон заняў Юхан III, швагер Ж. II. А. *Інфлянцкая вайна 1558—82* паказала існаванне небяспекі з боку Маскоўскай дзяржавы і падштурхнула да заключэння *Люблінскай уніі 1569*, стварэння *Рэчы Паспалітай*. Унутраная палітыка Ж. II А. была накіравана на ўзмацненне правоў сярэдняй шляхты. На сойме 1562—63 падтрымаў рэформу скарбу, судоў і войска («экзекуцыя правоў») і вяртанне каралеўскай уладзе каронных зямель, якія былі раздадзены магнатам з 1504. У выніку рэформ былі павялічаны грашовыя сродкі для дзярж. выдаткаў і самога караля. Садзейнічаў правядзенню *валочнай памеры* ў Літве і Беларусі. Пачаў будаўніцтва ваенна-марскога флоту Польшчы і стварыў Марскую камісію. У час праўлення Ж. II А. ў ВКЛ і Польшчы пашырылася Рэфармацыя ў розных яе галінах. Праводзіў палітыку талерантнасці ў адносінах да ўсіх канфесій. *Віленскім прывілеем 1563* канчаткова ўраўнаваў паліт. правы правасл. шляхты ВКЛ з каталіцкай. Зацвердзіў *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566*. У апошнія гады свайго праўлення пад націскам кіраўніцтва каталіцкай царквы згадзіўся на допуск езуітаў у Польшчу (1564) і ВКЛ (1569), што стала пачаткам контррэфармацыі ў гэтых краінах. Быў мецэнатам, падтрымліваў мастакоў, архітэктараў, музыкаў, акцёраў. Праў-



Надмагілле **Жыгімонта I** у Жыгімонтавай капліцы кафедральнага касцёла на Вавелі, Кракаў.

ленне Ж. II А. было перыядам росквіту культуры эпохі Адраджэння ў ВКЛ. Памёр Ж. II А. удаўцом, бяздзетным. На ім скончылася мужчынская лінія дынастыі *Ягелонаў*. У сваім паліт. тастаменце раіў шляхце прытрымлівацца саюзу з Францыяй і абраць на каралеўскі трон французскага прынца. Гэта было выканана на элекцыйным сойме 1573, калі быў абраны *Генрык* Валезы.

*Літ.*: Kolankowski L. Zygmunt August, wielki książe Litwy do roku 1548. Lwów, 1913; Яго ж. Polska Jagiellonów: Dzieje polityczne. 3 wyd. Olsztyn, 1991; Gołębiowski E. Zygmunt August. Warszawa, 1977; Wojciechowski Z. Zygmunt Stary (1506—1548). 2 wyd. Warzsawa, 1979; Tazbir J. Zygmunt II August // Poczet królów i książąt polskich. Warszawa, 1980; Cynarski S. Zygmunt August. Wrocław etc., 1988; Sucheni-Grabowska A. Zygmunt August król polski i wielki książę litewski, 1520—1562. Warszawa, 1996; Marek F. Dwór Zygmunta Augusta: Organizacja i ludzie. Kraków, 1998.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Жыгімонт III** Ваза (у ВКЛ Жыгімонт IV; 20.6.1566, Грыпсгольм, Швецыя—30.4.1632), вялікі князь літоўскі і кароль польскі [1587—1632], кароль Швецыі [1592—99]. Сын караля Швецыі Юхана (Яна) III Вазы і Кацярыны Ягелонкі, дачкі *Жыгімонта I* Старога. З 1568 наследны прынц Швецыі. Выхаваны езуітамі. Пасля смерці Стафана Баторыя на элекцыйным сойме 1587 абраны каралём польскім і вял. князем літоўскім дзякуючы падтрымцы каралевы Ганны Ягелонкі, канцлера вял. каронnага і гетмана вял. каронnага Яна Замойскага і сярэднемаянтковай шляхты. У барацьбе за карону перамог другога прэтэндэнта, аўстрыйскага эрцгерцага Максіміляна, які таксама быў абраны каралём часткаю шляхты. Аднак на сойме не было прадстаўнікоў ВКЛ. Каб замацаваць свае пазіцыі сярод бел.-літ. магнатаў і шляхты, 28.1.1588 у Кракаве выдаў прывілей, які зацвярджаў *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588*. Збліжэнне Ж. III з Габсбургамі і Германскай імперыяй, якое было замацавана 2 паслядоўнымі шлюбамі з аўстрыйскімі эрцгерцагінямі Ганнай і Канстанцыяй (сёстрамі), выклікала ў Польшчы незадавальненне Яна Замойскага і большасці шляхты. Кароль абкружыў сябе езуітамі, чужаземцамі і вузкім колам магнатаў. У 1592, пасля смерці бацькі, Ж. III заняў і шведскі трон. Палітыка аднаўлення пазіцый каталіцкай царквы



**Жыгімонт III** Ваза.
Карціна фламандскага мастака.
Пасля 1624.

ў Швецыі цалкам правалілася, не дала жаданых вынікаў яна і ў Рэчы Паспалітай. У 1599 шведская шляхта-пратэстанты скінула яго з трона і абрала рэгентам (у 1604 і каралём) яго дзядзьку Карла IX. Да канца свайго жыцця Ж. III рабіў намаганні вярнуць сабе шведскую карону, уцягнуў у доўгі канфлікт са Швецыяй і Рэч Паспалітую. Падтрымаў *Берасцейскую унію 1596*. Як палітык і кіраўнік дзяржавы вымушаны быў лічыцца з рэальным становішчам, таму паспрыяў прыняццю пастаноў соймаў Рэчы Паспалітай 1609, 1618 і 1631, якія гарантавалі правы праваслаўным. З групай магнатаў і шляхты (у іх ліку Леў Сапега) прапанаваў здзейсніць план далучэння Маскоўскай дзяржавы да Рэчы Паспалітай як члена федэрацыі разам з Польшчай і ВКЛ. Ж. III і кіруючыя колы Рэчы Паспалітай разлічвалі таксама на правядзенне царк. уніі ў Маскоўскай дзяржаве. Адным з варыянтаў быў магчымы саюз з Масквой на чале з царом, які быў абавязаны польскаму трону, або з польскім каралевічам у якасці цара. Падтрымаў *Ілжэдзмітрыя I*, *Ілжэдзмітрыя II*, даў ім дапамогу і дазволіў вербаваць у войска польскую, бел. і укр. шляхту. У 1600 пачаў *вайну Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*. Польскае і бел.-літ. войска атрымала перамогу ў *Кірхгольмскай бітве 1605*, аднак скарыстаць поспех Ж. III не здолеў, і вайна працягвалася. Пасля запрашэння царом Васілём Шуйскім шведскага корпуса для барацьбы з войскамі Лжэдзмітрыя II Ж. III пачаў *вайну Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609—18*. У выніку разгрому рас. арміі каля Клушына (1610) Васіль Шуйскі быў скінуты з трона, маскоўскія баяры і гараджане абвясцілі царом сына Ж. III — каралевіча Уладзіслава Жыгімонтавіча (гл. *Уладзіслаў IV* Ваза). Да *Дэулінскага перамір'я 1618* Ж. III дапамагаў сыну як «маскоўскаму цару» заваёўваць землі на ўсходзе. Намаганні Ж. III увесці ў Рэчы Паспалітай абсалютную манархію, спадчыннасць трона (а не выбары пажыццёва караля), зменшыць ролю палаты дэпутатаў (Пасольскай Ізбы) выклікалі ў 1606 рокаш, які ўзначалілі ваявода кракаўскі і гетман надворны каронны Мікалай Зэбжыдоўскі (гл. *Зэбжыдоўскага рокаш 1606—09*). Ракашане (каталікі, пратэстанты, праваслаўныя) збіраліся дэтранізаваць Ж. III. Яны дамагаліся рэлігійнай талерантнасці, анулявання Берасцейскай уніі, правядзення нац. палітыкі, разрыву саюзу з Германскай імперыяй. Але ў бітве каля Гузава (ліп. 1607) ракашане пацярпелі паражэнне. Для правядзення больш актыўнай палітыкі на ўсходзе, хоць бы вонкавага адзінства шляхты Ж. III пайшоў на кампраміс. Сойм абвясціў амністыю, зацвердзіў шляхецкія вольнасці, непарушнасць права выбару караля, пастаянную прысутнасць сенатараў для кантролю за яго дзеяннямі. Ж. III праводзіў актыўную палітыку ў паўд. напрамку. З-за свайго ультракаталіцызму падтрымліваў імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі ў яго барацьбе супраць Чэхіі і Трансільваніі, што выклікала пастаянныя напады на Украіну і паўд. Польшчу крымскіх татараў і туркаў, саюзнікаў Трансільваніі. У 1620 польскае войска было разбіта туркамі каля Цацоры. Рэванш, атрыманы ім у *Хацінскай бітве 1621*, не быў выкарыстаны з-за нерашучасці Ж. III. У канцы жыцця быў вымушаны прызнаць няўдачу сваіх планаў і ўнутры дзяржавы, і ў знешніх зносінах. Шмат у чым палітыка Ж. III прывяла да далейшага заняпаду дзяржавы і змяншэння яе ролі ў еўрапейскім паліт. жыцці.

*Літ.*: Lepszy K. Walka stronnictw w pierwszych latach panowania Zygmunta III.



Kraków, 1929; Seredyka J. Rzeczpospolita w ostatnich latach panowania Zygmunta III (1629—1632). Opole, 1978; Яго ж. Parlamentarzyści drugiej połowy panowania Zygmunta III Wazy. Opole, 1989; Maciszewski J. Zygmunt III // Poczet królów i książąt polskich. Warszawa, 1980; Podhorodecki L. Wazowie w Polsce. Warszawa, 1985; Wisner H. Zygmunt III Waza. Wrocław etc., 1991; Яго ж. Rzeczpospolita Wazów: Czasy Zygmunta III i Władysława IV. Warszawa, 2002.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Жыгімонт Кейстутавіч** (каля 1365—20.3.1440), вялікі князь літоўскі [1432—40]. Малодшы сын вял. князя *Кейстута* і *Біруты*, брат *Вітаўта*. У час барацьбы за ўладу паміж Вітаўтам і вял. князем *Ягайлам* апошнім быў зняволены (1382—84). У 1384 у Прусіі разам з Вітаўтам заключыў дагавор з Тэўтонскім ордэнам супраць Ягайлы, але ў 1386 прысягнуў вял. князю. У 1389 пасланы Вітаўтам у Прусію для перагавораў аб сумесным выступленні з Тэўтонскім ордэнам супраць Ягайлы. Да 1398 заложнік вял. магістра ордэна ў крэпасці Марыенбург. Пасля вяртання атрымаў ад Вітаўта ва ўдзел Старадубскае княства. Удзельнік *бітвы на Ворскле 1399*. Удзельнічаў у перагаворах і заключэнні мірных дагавораў з Тэўтонскім ордэнам 1398, 1411, 1422 і 1431, уній Польшчы з ВКЛ пачынаючы з 1401. Удзельнік *Грунвальдскай бітвы 1410*. У час панавання Вітаўта меў нязначны паліт. ўплыў на дзярж. справы, цалкам падтрымліваў брата. Пасля смерці Вітаўта і абрання вял. князем *Свідрыгайлы*



Пячатка **Жыгімонта Кейстутавіча**.

ў 1432 удзельнічаў у змове супраць Свідрыгайлы часткі літ. паноў і польскіх магнатаў, якія намагаліся ўзмацніць дзярж. унію Польшчы і ВКЛ і пашырыць польскі ўплыў на палітыку ВКЛ, непрыязна ставіліся да прызначэння на важнейшыя пасады баяр бел. паходжання. Пасля ўцёку Свідрыгайлы ў Полацк Ж.К. абвешчаны вял. князем літоўскім. Яго ўладу прызналі Літва і больш цесна звязаныя з ёю Жамойць, Падляшша, Берасцейская і Менская землі, прынёманскія воласці. Астатнія бел., укр. і рускія землі падтрымалі Свідрыгайлу, які замацаваўся ў Віцебску. Паміж Свідрыгайлам і Ж.К. пачалася барацьба (гл. *Феадальная вайна 1432—39*). Каб залучыць на свой бок бел. і укр. феадалаў, Ж.К. выдаў *прывілей 1434*, паводле якога пашыраў на іх усе правы і прывілеі, дадзеныя літ. феадалам-католікам Ягайлам *прывілеем 1387* і *Гарадзельскім прывілеем 1413*. Але бел., укр. і літ. феадалы не падтрымлівалі яго палітыкі падпарадкавання дзяржавы Польшчы. Каб пашырыць сваю сацыяльную апору, Ж.К. пачаў вылучаць на дзярж. пасады дробных літ. і бел. баяр, што выклікала незадавальненне буйных феадалаў і князёў. Ж.К. быў занадта падазроным, шукаў уяўных змоўшчыкаў, жорстка караў іх, нягледзячы на свае ж гарантыі, канфіскоўваў маёнткі, выносіў смяротныя прыгаворы. У апошнія гады панавання пачаў аддзяляцца ад Польшчы, страціў яе падтрымку. Супраць Ж.К. была арганізавана змова ўкр. князёў Івана і Аляксандра Чартарыйскіх і літ. паноў віленскага ваяводы Доўгірда і троцкага ваяводы Лялюша, якія былі звязаны з Свідрыгайлам. У выніку змовы Ж.К. забіты ў Троцкім замку.

*Літ.*: Lewicki A. Powstanie Świdrygiełły. Kraków, 1892; Барвінський Б. Жигимонт Кейстутович, великий князь литовсько-руський (1432—1440). Жовква, 1905; Очерки истории СССР: Период феодализма, IX—XV вв. Ч. 2. М., 1953; История Литовской ССР. Вильнюс, 1978; Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983; Krzyżaniakowa J., Ochmański J. Władysław II Jagiełło. Wrocław etc., 1990; Nikodem J. Przyczyny zamordowania Zygmunta Kiejstutowicza // Białoruskie zeszyty historyczne. 2002. Z. 17.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**жыды**, назва жыхароў ВКЛ яўрэйскай нацыянальнасці, якая ўжывалася ў тагачасным бел. і польскім пісьменстве; гл. *Яўрэі*.

**Жыжэмскія**, княжацкі род уласнага герба. Вядуць паходжанне ад смаленскай галіны Рурыкавічаў. Прозвішча ўтворана ад назвы родавага маёнтка Жыжма ў Лідскім пав. З канца 16 ст. прымалі каталіцтва. З разрастаннем роду яго прадстаўнікі бяднелі, многія з іх перасталі карыстацца княжацкім тытулам. Ён не быў прызнаны ў Рас. імперыі, некаторым прадстаўнікам роду адмоўлена і ў дваранскім званні. Найб. вядомыя:

Глеб Святаславіч (?—12.8.1399), сын Святаслава Іванавіча. Князь смаленскі [1392—96]. У *Мсціслаўскай бітве 1386* узяты ў палон войскамі ВКЛ. У 1391 аддадзены як заложнік вял. магістру Нямецкага ордэна. Вёў барацьбу з братам Юрыем за валоданне Смаленскам. Пасля захопу Смаленска ў 1396 вял. князем Вітаўтам Глеб з дзецьмі адпраўлены ў ВКЛ, дзе атрымаў маёнтак Палоннае. Загінуў у *бітве на Ворскле 1399*.

Дзмітрый Глебавіч, сын Глеба Святаславіча. Разам з бацькам у 1396 адпраўлены ў ВКЛ. У 1433 атрымаў ад Ягайлы ў вотчыну маёнтак Жыжма.

Іван Дзмітрыевіч (мянушка Манька), сын Дзмітрыя Глебавіча. Першы прыняў прозвішча Ж. У сярэдзіне 15 ст. атрымаў маёнтак Бобрыкі ў Менскім пав.

Іван Дзмітрыевіч (мянушка Шах), сын Дзмітрыя Глебавіча. Родапачынальнік князёў Шаховічаў.

Міхаіл Іванавіч Маньчыч (?—каля 1530), сын Івана Дзмітрыевіча Манькі. У 1528 ставіў у войска 8 коннікаў. З яго сыноў Дзмітрый і Васіль пасля задушэння *Глінскіх мяцяжу 1508* уцяклі ў Маскоўскую дзяржаву, Даніла, Цімафей і Багдан засталіся ў ВКЛ (2 апошнія былі каралеўскімі дваранамі).

Яраш Іванавіч (?—1598), сын Івана Цімафеевіча. Каралеўскі ротмістр, стараста рэчыцкі з 1576. Валодаў маёнткамі Вербкавічы ў Менскім пав., Навасёлкі ў Мазырскім пав., Копысь, Жыжма.

Сільвестр Іванавіч (?—пасля 1599), сын Івана Цімафеевіча. Ляснічы кобрынскі ў 1582, удзельнік з'езда праваслаўных і пратэстантаў у Вільні ў 1599.

Пётр Ярашавіч (?—да 1609), сын Яраша Іванавіча. Стараста рэчыцкі з 1598, удзельнік з'езда праваслаўных і пратэстантаў у Вільні ў 1599.

Яраш Ярашавіч (?—1630), сын Яраша Іванавіча. Мазырскі войскі з 1595 і падкаморы да 1609. Вызнаваў каталіцтва.

Ян (?—1635), сын Пятра Ярашавіча. Падкаморы менскі.

Адам Ярашавіч (?—пасля 1640), сын Яраша Іванавіча. Харужы мазырскі з 1621.



Ян (?—1645), сын Яраша Ярашавіча. Стольнік менскі да 1630, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1642.

Аляксандр (?—крас. 1645), сын Крыштофа Ярашавіча. Каралеўскі дваранін, ляснічы аранскі і пералайскі, стольнік менскі з 1634, чашнік ВКЛ у 1640—43, падстолі ВКЛ з 1643.

Тамаш (?—каля 1675), сын Крыштофа Ярашавіча. Падкаморы менскі з 1647, у 1660 удзельнічаў у вайне Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.

Адам (?—пасля 1683), сын Яна. Менскі стольнік, з 1677 лоўчы. У 1674 удзельнічаў у элекцыі караля Яна III Сабескага.

Ян (?—каля 1700), сын Тамаша. Падкаморы менскі, у 1674 і 1697 удзельнічаў у элекцыі Яна III Сабескага і Аўгуста II.

Тэафіл (?—пасля 1736), сын Адама. Менскі гродскі пісар, з 1724 земскі пісар, пасля чашнік, з 1731 земскі сурагатар.

Дамінік (?—каля 1751), сын Яна. Падчашы троцкі, ротмістр менскі.

Міхал (?—пасля 1770), сын Тэафіла. Каралеўскі дваранін, падсудак менскі ў 1726, чашнік старадубскі, менскі падчашы з 1748, войскі з 1764, падкаморы з 1767, дэпутат Трыбунала ВКЛ у 1732.

***Валерый Пазднякоў.***

**Жылібер** (Gilibert) Жан Эмануэль (21.6.1741, в. Карэт каля Ліёна, Францыя—2.9.1814), французскі натураліст, хірург і анатам. Скончыў мед. факультэт ун-та ў Манпелье (1763). Праф. мед. каледжа ў Ліёне (1768). Пасланнікам гарадзенскага старасты А.*Тызенгаўза* Т.Даўнаровічам запрошаны на работу ў Гародню. З 1775 працаваў у прыгарадзе Гародні Гарадніцы, стварыў *Гарадзенскі батанічны сад*. У 1775 арганізаваў *Гарадзенскую медыцынскую акадэмію*. Планаваў арганізацыю с.-г. і ветэрынарнай школ, разам з Тызенгаўзам стварэнне ў Гародні Акадэміі навук. Калі Тызенгаўз у 1780 быў змешчаны з пасады гарадзенскага старасты, Ж. разам са сваімі вучнямі пераехаў у 1781 у Вільню, дзе пры падтрымцы М.*Пачобута-Адляніцкага* і І.*Храптовіча* стварыў на базе Гарадзенскай мед. акадэміі мед. факультэт у Гал. школе ВКЛ (гл. ў арт. *Віленская акадэмія*), узначаліў кафедру натуральнай гісторыі і батанікі, заклаў пры школе батанічны сад. У 1783 вярнуўся ў Ліён, працаваў эпідэміёлагам, у 1792 праф. натуральнай гісторыі Ін-та навук і карыс-




Ж.Э.**Жылібер**.

ных мастацтваў. Удзельнік рэвалюцыі 1789—94, у 1793 абраны мэрам Ліёна. Пасля паражэння рэвалюцыі адышоў ад паліт. дзейнасці, займаўся навукай. Аўтар прац па эпідэміялогіі, батаніцы, у т.л. «Флоры Літвы» (т. 1—2, Гародня, 1781; т. 3—5, Вільня, 1781—82). Яго імем названы від раслін — жыліберцыя (Jilibertia).

*Літ.*: Sławiński W. Dr. Jan Emmanuel Gilibert, profesor i założyciel Ogrodu Botanicznego w Wilnie: Pryczynek bio-bibljograficzny do historji Uniwersytetu Wileńskiego // Ateneum Wileńskie. 1925. Z. 9.

***Аляксандр Мілінкевіч.***

**Жылінскія**, княжацкі род у ВКЛ. Паводле рас. радаводных кніг, родапачынальнік — Іван Андрэевіч Жылка, сын вяземскага князя Андрэя Уладзіміравіча, які загінуў у бітве з манголамі на р. Калка ў 1223. Жылка валодаў невял. удзелам з цэнтрам у с. Жыліна каля Рослава. Гэтыя землі ў канцы 15 ст. адышлі да Вял. княства Маскоўскага, але князь Сямён Фёдаравіч Ж. (?—пасля 1500) застаўся ў ВКЛ, ад вял. князя Аляксандра атымаў двор Тулава каля Віцебска. Яго старэйшы сын Васіль Сямёнавіч (?—1529) быў намеснікам медніцкім у 1507—14 і крычаўскім з 1516, у 1528 ставіў у войска 2 коннікаў, а малодшы, Іван Сямёнавіч (?—пасля 1552) атрымаў пацвярджэнні на Тулава ад Жыгімонта Старога (1516) і Жыгімонта Аўгуста (1552). Сын Васіля Іван Васілевіч (?—каля 1557) валодаў дваром Цюдзенішкі каля Меднікаў і Рогава. З яго сыноў Ян (?—каля 1600) у 1595 атрымаў сёлы Ланкелішкі, Мальнічы і Харомы каля Пуні; Андрэй (?—1602) быў войскім віцебскім у 1596, пасля маршалкам упіцкім, з 1597 маршалкамількамірскім; валодаў маёнткам Конскі ў Віцебскім пав. (апошні мужчына ў родзе).

***Валерый Пазднякоў.***

**Жыровіцкае Евангелле**, беларускі рукапісны помнік 15 ст. Да сярэдзіны 19 ст. захоўвалася ў *Жыровіцкім Успенскім манастыры*. Пісана ўставам на 404



**Жыровіцкае Евангелле**.



аркушах. На 376—377-м аркушах пабеларуску зроблены надпіс — фундушавы запіс канцлера ВКЛ Л.Сапегі (адсюль другая назва рукапісу — «Евангелле Сапегі»). Багата аздоблена застаўкамі, мініяцюрамі з выявамі евангелістаў, шматлікімі ініцыяламі. Мініяцюры абведзены шырокімі залачонымі рамкамі, арнаментаванымі геаметрычным і расліннымі ўзорамі. У выкананні мініяцюр адчуваецца сувязь з візантыйскай мастацкай традыцыяй. Малюнак вызначаецца пластычнасцю, выразнай індывідуалізацыяй твораў, жанравасцю задумы і мажорным каларытам (кадміева-чырвоныя, сінія, зялёныя і вохрыста-залацістыя фарбы). Зберагаецца ў Цэнтр. бібліятэцы АН Літвы.

*Літ.*: Нікалаеў М. Палата кнігапісная: Рукапісная кніга на Беларусі ў X—XVIII стагоддзях. Мн., 1993; Мазурын В. Аўтографы гісторыі на старонках Жыровіцкага Евангелля // Бел. гіст. часопіс. 2003. № 4; Шматаў В. Жыровіцкае Евангелле як помнік кніжнага дойлідства // Там жа. 2004. № 7.

***Віктар Шматаў.***

**Жыровіцкі абраз Маці Божай**, адна з хрысціянскіх святынь на Беларусі, якая ўшаноўваецца праваслаўнай і грэкакаталіцкай цэрквамі як цудатворная. Знаходзіцца ў *Жыровіцкім Успенскім манастыры*. Абраз — авал з яшмы, на адным баку якога рэльефная выява Маці Божай тыпу Замілавання з дзіцем на правай руцэ. Паводле «Гісторыі» жыровіцкага іераманаха Феадосія Баравіка (1622), святыня з'явілася пастушкам у лесе на грушы-дзічцы ў 2-й пал. 15 ст., калі дзяржаўцам Жыровіч быў А.Солтан. У пач. 18 ст. І.Нардзі вызначыў час падзеі — 1470, які афіцыйна прыняты і цяпер. П.М.Жуковіч лічыў больш верагодным час 1493—95. Шырока вядомым абраз як цудатворны стаў з пач. 17 ст. Ён набыў славу шматлікімі цудоўнымі вылячэннямі, да яго звярталіся людзі з розных пластоў грамадства, у т.л. магнаты Войны, Палубінскія, Радзівілы, Сапегі. У 1644 кароль Уладзіслаў IV з каралевай былі 2 дні ў Жыровічах на набажэнстве ў гонар абраза; пакланіцца абразу прыязджалі каралі Ян II Казімір перад паходам на Б.Хмяльніцкага ў час антыфеадальнай вайны 1648—51 і Ян III Сабескі ў 1683 перад бітвай пад Венай, у 18 ст. — Аўгуст II і Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. 9.9.1730 у прысутнасці 38 тыс. чал. адбылося ўрачыстае каранаванне абраза. Прывезеныя з Рыма кароны ўсклаў уніяцкі мітрапаліт кіеўскі і галіцкі Афанасій Шаптыцкі. Тады ж быў зроблены дарагі абклад, кароны аздоблены каштоўнымі камянямі, якія падаравала Ганна Радзівіл з Сангушкаў. У 1660 абраз вывозілі ў Быценскі манастыр базыльян, у 1915 — у Маскву, адкуль ён вярнуўся без большасці аздоб. З яго шматразова рабіліся жывапісныя копіі на дошках і палатне; выконваліся гравюры, найб. вядомая Л.Тарасевіча (1682) па малюнку П.Бацэвіча. Пашкоджаны пажарам, відаць, у 1-й пал. 16 ст. Свята абраза адзначаецца 7 мая паводле старога стылю (20 мая паводле новага стылю).



**Жыровіцкі абраз Маці Божай** з апосталамі Пятром і Паўлам. Гравюра Л.Тарасевіча. Вільня. 1682.



**Жыровіцкі абраз Маці Божай.**

*Літ.*: Жуковіч П. Неизданное русское сказание о Жировицкой иконе Божией Матери: (в связи с историей русского дворянского рода Солтанов Жировицких) // Известия отделения русского языка и словесности Императорской АН. 1912. Т. 17, кн. 2; Крамко І., Мальдзіс А. Невядомы помнік старабеларускай пісьменнасці // Бел. лінгвістыка. Мн., 1983. Вып. 23; Іх жа. Са скарбаў нашага старажытнага пісьменства // Помнікі культуры. Мн., 1985; Пуцко В. Жыровіцкі рэльеф // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1989. № 2; Яго ж. Жыровіцкая ікона Божае Маці // Полацак. 1993. № 4.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Жыровіцкі Успенскі манастыр.** Заснаваны ў 16 ст. ў мяст. *Жыровічы*. Сваім узнікненнем абавязаны *Жыровіцкаму абразу Маці Божай*, які, паводле легенды, з'явіўся ў 1470. На месцы яго з'яўлення ўласнік Жыровіч падскарбі ВКЛ А.Солтан пабудаваў правасл. царкву (драўляную), а каля 1560 адзін з яго нашчадкаў пачаў будаваць мураваную царкву. У 1587 упершыню ўпамінаецца мужчынскі манастыр. У 1609 ён перайшоў да уніяцкай царквы, з 1613 належаў ордэну базыльян [фундатары Ян (Іван) Мялешка і Даніла Солтан]. 29.10.1613 Мялешка даў першую даравальную грамату, а ў 1618 аддаў манастыру сваю частку Жыровіч, у 1616 канцлер ВКЛ Л.Сапега падараваў шмат ворнай зямлі, карчму ў Шылавічах і звон для царквы. У 1667 кароль Ян II Казімір аддаў манастыру вёскі Баравікі і Була. Першым ігуменам ва уніяцкі перыяд быў Іасафат *Кунцэвіч*, тут адбываліся кангрэгацыі базыльян (1629, 1658, 1659, 1661, 1675, 1679, 1694). З 1636 набажэнства праходзіла па лац. і грэчаскім абрадах. Пры манастыры існавала школа для свецкіх асоб. Не пазней як у 1709 пачалі дзейнічаць ніжэйшая і філас. школы, якія *Адукацыйнай камісіяй* пераўтвораны ў павятовае 3-класнае вучылішча (у пач. 19 ст. вывучалі польск., лац., франц. і рус. мовы, трыганаметрыю, алгебру, хімію, права і інш.). Архітэктурны ансамбль манастыра склаўся ў 17—18 ст. Уключае 3 храмы, званіцу, будынак семінарыі, жылы корпус, трапезную, бальніцу, шэраг гасп. пабудоў. Гал. Успенскі сабор пачалі будаваць у 1629, работы працягваліся да 1670—80. Гэта 3-нефавая крыжовакупальная базіліка з паўкруглай ступенчатай апсідай. Нефы перакрыты крыжо-





**Жыровіцкі Успенскі манастыр.**
Панарама комплексу.



**Жыровіцкі Успенскі манастыр.**
Крыжаўзвіжанская царква.

вымі скляпеннямі, апсіда — конхай з люнетамі, паўн. крыло трансепта — купалам, паўд. крыло — скляпеннем на ветразях. Цэнтр. купал авальны ў плане, з ліхтаром. З паўд. боку прымыкае цёплая Мікольская царква, з паўночнага — абходная галерэя. У інтэр'еры разны іканастас 2-й пал. 17 ст., у яго мясцовым радзе — цудатворны абраз Маці Божай. Яўленская царква (на месцы другога з'яўлення абраза пасля пажару) змуравана ў 1672 (паводле інш. звестак у 1769). Гэта прамавугольны ў плане, зальны храм, фасад завершаны барочным шчытом. Крыжаўзвіжанская царква пабудавана ў 1769 і ўвасабляе Галгофу. Гэта высотны, прамавугольны ў плане будынак, над гал. фасадам узвышаецца лёгкая вежа-званіца. На Пд ад Успенскага сабора знаходзіцца 2-павярховы корпус манастыра 17 ст., на У — 3-павярховы корпус (каля 1710) і гаспадарчыя пабудовы. У 1828 фасаду сабора нададзены рысы класіцызму, збіты вежы, насупраць увахода праз вуліцу пабудавана царква-званіца. У 1810—28 у манастыры месцілася рэзідэнцыя епіскапаў Берасцейскай, у 1828—39 — Літоўскай уніяцкіх епархій. У манастыры меўся аркестр (у 1821 былі 2 фартэпіяна, 11 скрыпак, 5 труб, басэтля і інш.). У 1828 на аснове павятовага вучылішча заснавана уніяцкая духоўная семінарыя. У гэты перыяд намаганнямі архіепіскапа Іосіфа Сямашкі ў манастыры ў нетрах уніі аднаўляліся правасл. богаслужэнне, адбывалася знаёмства з правасл. веравучэннем па першакрыніцах. Пасля скасавання уніяцкай царквы манастыр зноў стаў праваслаўным. У 1842 усе яго зямельныя ўладанні адышлі ў казну, пакінуты 342 дзесяціны («Жыровіцкая ферма»), манастыр залічаны да 2-га класа. Да 1845 тут часова знаходзілася епіскапская кафедра Літоўскай правасл. епархіі і Літоўская духоўная семінарыя. З 1-й пал. 19 ст. да 1915 існавала Жыровіцкае духоўнае вучылішча. У манастыры была вял. бібліятэка з рэдкімі рукапісамі (у т.л. *Жыровіцкае Евангелле*) і архіў. У 1845 частка іх адпраўлена ў Вільню, у сярэдзіне 19 ст. калекцыю дакументаў, манускрыптаў і старадрукаў вывез у Пецярбург П.Дабрахотаў, шмат кніг і інш. каштоўнасцей эвакуіраваны ў 1-ю сусв. вайну. З пач. 1960-х г. да канца 1980-х г. на тэр. манастыра жылі насельніцы закрытых жаночых манастыроў — Гродзенскага Раства Багародзіцы і Полацкага



**Жыровіцкі Успенскі манастыр.**
Успенскі сабор.



**Жыровіцкі Успенскі манастыр**. Богаяўленская царква.

Спаса-Ефрасіннеўскага. У 1989 адноўлена дзейнасць духоўнай семінарыі. У 1994 у манастыры знаходзілася 30 насельнікаў. Узначальвае манастыр намеснік у сане архімандрыта.

*Літ.*: Николай. О Жировицком монастыре и находящейся в нем иконе Божьей Матери // Вестн. Юго-Западной и Западной России. 1864. Т. 4, кн. 1; Паевский Л. Жировицкий и Брест-Литовский архивы // Тр. девятого археологического съезда в Вильне, 1893. М., 1895. Т. 1; Жировицкая Чудотворная Икона Божией Матери и Жировицкая обитель. Гродно, 1907; Жукович П.Н. Неизданное русское сказание о Жировицкой иконе Божией Матери: (в связи с историей русского дворянского рода Солтанов Жировицких) // Изв. Отделения рус. языка и словесности Императорской АН. СПб., 1912. 17, кн. 2; Жировицкий Свято-Успенский монастырь. М., 1999.

***Аляксандр Ярашэвіч.***

**Жыровіцкі школьны тэатр.** Існаваў у сярэдзіне 18 ст. пры базыльянскай семінарыі ў мяст. Жыровічы. Пастаўленыя ў ім драмы на лац. і польскай мовах з бел. інтэрмедыямі карысталіся папулярнасцю ў гледачоў. Вядома пра пастаноўкі ў тэатры лац. трагедыі «Цыцэрон» С.Навіцкага з музыкай мясц. кампазітара Б.Згіроўскага (1752), польска-бел. уніяцкай інтэрмедыі «Сляпы, кульгавы, потым пан і селянін» (1751) і інш.

**Жыровічы** (цяпер вёска ў Слонімскім р-не Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Слонімскім пав. Навагародскага ваяв., каля р. Шчара. Вядомы з 2-й пал. 15 ст. як велікакняжацкае ўладанне, дадзенае вял. князем Казімірам IV Ягелончыкам падскарбію ВКЛ А.Солтану. Ён пабудаваў царкву на месцы, дзе, паводле легенды, у 1470 з'явіўся *Жыровіцкі абраз Маці Божай*. Вакол царквы стала фарміравацца паселішча, узнік *Жыровіцкі Успенскі манастыр*. З 1565 у Ж. праводзіліся кірмашы. У 1610-я г. Ж. перайшлі ад нашчадкаў Солтана да канцлера ВКЛ Л.Сапегі, потым да кашталяна смаленскага І.Мялешкі, які ў 1621 перадаў Жыровіцкі маёнтак заснаванаму ім манастыру базыльян. З 1624 Ж. — мястэчка, у 1652 атрымалі магдэбургскае права. У *вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* мястэчка і манастыр спалены казакамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Местечко Жировицы и его достопримечательности // Литовские епархиальные ведомости. 1880. № 49; Орловский Е.М. Жировицы. Вильна, 1894.

***Валерый Шаблюк.***

**Жыткавічы**, Жыдкавічы (цяпер горад, цэнтр Жыткавіцкага р-на Гомельскай вобл., Рэспубліка Беларусь), вёска, цэнтр маёнтка ў Мазырскім пав. Менскага ваяв. Упершыню ўпамінаецца ў сувязі са скаргай В.Кучуковіча на кн. Сямёна Міхайлавіча Алелькавіча, які паспрабаваў захапіць маёнтак Ж. 22 баярыны засведчалі, што гэтым маёнткам валодаў яшчэ бацька Кучуковіча. Таму справа ў 1498 была вырашана на яго карысць. Відаць, да 1565 уваходзілі ў Тураўскае княства, потым ўключаны ў Мазырскі пав. У 1581 тут існаваў правасл. прыход. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Гіст.-дак. хроніка Жыткавіцкага р-на. Мн., 1994.

***Валерый Грынявецкі.***

**Жыткові́ч** (Żytkowicz) Леанід (17.7.1909, г. Смаргонь—4.12.1991), гісторык. Д-р габілітаваны (1947), праф. звычайны (1971). Скончыў Віленскі ун-т (1929), дзе пасля выкладаў (асістэнт). З 1940 працаваў у б-цы польскага аддзела Ін-та літуаністыкі, у 1941 і 1944—45 навуковы супрацоўнік Цэнтральнага архіва Літ.ССР. З 1945 у Польшчы, да 1962 выкладаў у Тарунскім ун-це, у 1953—80 працаваў у Ін-це гісторыі Польскай АН. Даследаваў гісторыю ВКЛ 18 ст., паўстанне 1794, праблемы сац.-эканамічных адносін у Польшчы і Рэчы Паспалітай.

*Тв.*: Zburzenie murów obronnych Wilna (1799—1805). Wilno, 1933; Stosunki skarbowe W. Ks. Litewskiego w dobie insurekcji kościuszkowskiej // Ateneum Wileńskie. 1935. R. 10; Litwa i Korona w r. 1794 // Там жа. 1937. R. 12; Kilka uwag o handlu zewnętrznym Wielkiego Księstwa Litewskiego w ostatnich latach Rzeczypospolitej // Zapiski historyczne. 1976. Z. 2.

*Літ.*: Alexandrowicz S. Profesor Leonid Żytkowicz (17 lipca 1910—4 grudnia 1991) // Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1994. T. 6.

***Валерый Пазднякоў.***

**Жытомір** (укр. Житомир, цяпер горад, цэнтр Жытомірскай вобл., Украіна), горад, цэнтр Жытомірскага пав. Кіеўскага ваяв., на р. Цецераў (басейн Дняпра). Упершыню ўпамінаецца пад 1305. У 1324 Ж. заняты Гедзімінам і ўключаны ў склад ВКЛ. У канцы 1361—пач. 1362 паўторна падначалены ВКЛ, велікакняжацкі горад. У 2-й пал. 14 ст. ў Ж. быў замак. У 1394 Вітаўт аддаў Ж. у валоданне Скіргайлу. Пасля *бітвы на Ворскле 1399* войска Цімур-Кутлука захапіла і разрабавала Ж. З 1471 цэнтр павета ў Кіеўскім ваяв., да 1471 атрымаў гар. правы. Спусташальнымі для горада былі набегі татараў у 1469, 1482, 1606. Паводле люстрацыі Кіеўскай зямлі 1471, у замку 4 гарматы і 5 тарасніц. У 1508 атрады М.Глінскага аблажылі замак. У 1522 вял. пажар знішчыў горад, у гэты час замак меў на ўзбраенні гармату, 3 серпанціны, 56 гакаўніц. У 1540-х г. замак нанава адбудаваны, меў 45 праслаў і 6 драўляных



вежаў. Пасля Люблінскай уніі 1569 у складзе Польскага каралеўства. У 1572 у Ж. 172 двары. У 1596 горад атрымаў правы на 2 кірмашы ў год па 2 тыдні кожны. У 1609 у Ж. 246 дамоў мяшчанскіх і 16 шляхецкіх. У 1614 тут збіралася Жытомірская камісія, якая пазбавіла рэестравых казакоў ранейшых прывілеяў, тыя адмовіліся прызнаць пастанову камісіі. У 1634—36 житомірскі староста Я.Тышкевіч заснаваў тут кляштар кармелітаў. Пасля *Андросаўскага перамір'я 1667* Ж. стаў цэнтрам Кіеўскага ваяв., рэзідэнцыяй кіеўскіх біскупаў. У 1724—51 у горадзе знаходзілася езуіцкая місія, у 1751—73 — рэзідэнцыя, пры якіх працавала школа з класамі граматыкі (з 1747), сінтаксіса (з 1749), паэтыкі (з 1754), рыторыкі (з 1757), 2-гадовыя курсы маральнай тэалогіі (з 1762), працавалі муз. бурса, б-ка, аптэка. У 1724 езуіты пабудавалі драўляны касцёл, у 1751—62 — мураваны касцёл (у 1768 згарэў, у 1838 разабраны). У 1735—44 пабудаваны кафедральны касцёл, у 1761 — бернардзінскі кляштар. У 1766 у Ж. дазволена размясціцца рас. місіі, адкрыць правасл. семінарыю, пачалося будаўніцтва царквы. У 1780 — 288 будынкаў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітаей (1793) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Жыхлінскі** (Żychliński) Тэадор (25.6.1836, Гжыміслаў каля Сьрэма, Польшча—26.8.1909), польскі гісторык, генеалог, публіцыст. З шляхецкай сям'і. Служыў паручнікам артылерыі ў прускай арміі. Перасяліўся ў Вроцлаў, дзе у 1863 удзельнічаў у канспірацыйным руху, пасля ў Познані. У 1864—76 рэдактар газет «Dziennik Poznański» («Пазнанскі дзённік») і «Kurier Poznański» («Пазнанскі кур'ер»). Выдаў працу «Залатая кніга польскай шляхты» («Złota księga szlachty polskiej», т. 1—31, Познань, 1879—1908), у якой 521 гістарычна-генеалагічны нарыс шляхецкіх родаў Рэчы Паспалітай (многія дасланы Ж. з месцаў). Нарысы пра роды ВКЛ (Агінскія, Белазоры, Бжастоўскія, Вайніловічы, Валадкевічы, Касакоўскія, Нарушэвічы, Пацы, Плятэры, Ромеры, Сангушкі, Сялявы, Тышкевічы, Хадкевічы, Храпавіцкія і інш.) вылучаюцца высокім узроўнем апрацоўкі.

*Тв.*: Żywot Tadeusza Kościuszki. Poznań, 1876; Kronika żałobna rodzin wielkopolskich od 1863—1876 r. Poznań, 1877.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Жыціе Аляксея, чалавека Божага»**, помнік беларускай перакладной агіяграфічнай літаратуры канца 15 ст. Змешчана ў рукапісным зборніку разам са *«Страсцямі Хрыстовымі»* і *«Аповесцю пра трох каралёў»*. Перакладзена з лац. мовы з выкарыстаннем чэшскіх крыніц. Шырока адлюстроўвае рысы бел. нар. гаворкі свайго часу. Апавядае пра Аляксея, які ў імя веры пакінуў багатых бацькоў і жонку і стаў хрысціянскім падзвіжнікам. Пасля вярнуўся ў бацькоўскі дом пад выглядам жабрака і жыў так 17 гадоў. Толькі пасля яго смерці бацькі даведаліся, што гэта быў іх сын. Аповесць вядома ў чэшскім і польскім перакладах, у празаічным, вершаваным і драматургічным варыянтах. Зборнік зберагаецца ў Рас. нац. б-цы ў С.-Пецярбургу.

*Публ.*: Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мн., 1959; Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы. Ч. 1. Мн., 1961.

*Літ.*: Адрианова В.П. Житие Алексея, человека божия, в древней русской литературе и народной словесности. Пг., 1917.

***Уладзімір Свяжынскі.***

**«Жыціі святых»**, помнік беларускай перакладной агіяграфічнай літаратуры 17 ст. Перакладзены з польскай мовы. Першакрыніца — «Жыціі святых» П.*Скаргі*. Вядомы 3 скарочаныя бел. пераклады. Найб. поўны (141 жыціе) створаны ў 2-й пал. 17 ст., відаць, у Магілёве, захаваў многія літ. асаблівасці арыгінала. Бел. перакладчыкі выбіралі творы пра найб. вядомых святых, часам уносілі змены ў тэксты (апускалі выпады супраць праваслаўных і пратэстантаў, пахвалы рымска-каталіцкаму касцёлу і інш.). Творы ў зборніку маюць сярэдневяковы рэліг.-аскетычны, дыдактычны характар, схематычныя вобразы, але дзякуючы багаццю зместу, даходлівасці выкладу былі папулярныя сярод бел., польскіх і ўкр. чытачоў.

*Літ.*: Гудзий Н.К. Переводы «Żywotów świętych» Петра Скарги в Юго-Западной Руси. Киев, 1917; Кніга жыцій і хаджэнняў. Мн., 1994.

***Вячаслаў Чамярыцкі.***

**Жэра** Кароль Антоній (1.9.1743, в. Тварогі Выпыхі, Падляшша—пасля 1798), польскі і беларускі пісьменнік. Адукацыю атрымаў у Дарагічыне над Бугам, потым у Пінску, дзе ў 1765 уступіў у ордэн францысканцаў. Доўгі час жыў у Сянне, выкладаў у школе пры кляштары бернардзінцаў. Аўтар зборніка бел., польскіх і лац. фацэцый (анекдотаў) «Безліч рэчаў, торба смеху, гарох з капустай, а кожны сабака з другой вёскі...» (распаўсюджваўся ў рукапісах). Многія анекдоты запісаны на Беларусі і на бел. мове. Упершыню зборнік Ж. выдадзены З.Глогерам (1893), паводле спіса Рас. нац. б-кі ў Пецярбургу выдадзены К.Жукоўскай (1980).

*Тв.*: Ze starych szpargałów śp. Karola Żery / Wydał Z.Gloger. Warszawa, 1893; Vorago rerum; Torba śmiechu; Groch z kapustą; A każdy pies z innej wsi... Warszawa, 1980.

*Літ.*: Krzyżanowski J. Dawna facecja polska. Warszawa, 1960; Мальдзіс А. «Торба смеху» Кароля Жэры // Літаратура і мастацтва. 1984. 5 кастр.; Артымовіч Е. Кароль Жэра // Ніва. 1984. 11 лістап.

***Адам Мальдзіс.***





**Забароўскі** (Заборовский) Леў Валянцінавіч (30.9.1930, Масква—4.11.1998), расійскі гісторык. Канд. гіст. навук (1987). Скончыў Маскоўскі гіст.-архіўны ін-т (1962). З 1962 заг. архіва тэрапіі Акадэміі мед. навук СССР, пазней у Ін-це славяназнаўства і балканістыкі Рас. АН, старшы навук. супрацоўнік, у 1976—94 вучоны сакратар аддзела гісторыі сярэдніх вякоў. Адказны сакратар міжнар. праекта «Славяне і іх суседзі» (з 1987). Даследаваў гісторыю народаў Расіі, знешняй палітыкі, арміі і флоту, крыніцазнаўства, гістарыяграфію. Удзельнічаў у падрыхтоўцы выдання «Дакументы знешняй палітыкі СССР» («Документы внешней политики СССР», т. 9—21, Москва,1964—77).

*Тв.*: Начало русско-польской войны и дипломатические контакты России с Австрией, Бранденбургом и другими европейскими державами (конец 1563 г.—январь 1655 г.) // Исследования по славяно-германским отношениям. М., 1971; Канун и начало русско-польской войны и позиция держав Юго-Восточной Европы (50-е гг. XVII в.) // Карпато-Дунайские земли в средние века. Кишинев, 1975; Россия, Речь Посполитая и Швеция в середине XVII в.: Из истории международных отношений в Восточной и Юго-Восточной Европе. М., 1981; Юрий Крижанич о Речи Посполитой: (проблемы «вольнобесия») // Славистические исследования: Доклады к XI Международному съезду славистов (Братислава). М., 1992; Великое княжество Литовское и Россия во время польского Потопа (1655—1656 гг.): Документы, исследование. М., 1994; Брестская уния 1596 г. и общественно-политическая борьба на Украине и в Белоруссии в конце XVI—первой половине XVII в. Ч. 2. Брестская уния 1596 г.: Исторические последствия события. М., 1996 (з М.В.Дзмітрыевым, А.А.Турылавым, Б.М.Флорам); Католики, православные, униаты: Проблемы религии в русско-польско-украинских отношениях конца 40-х—80-х гг. XVII в.: Документы. Исследования. Часть 1. Источники времени гетманства Б.М.Хмельницкого. М., 1998.

***Валерый Пазднякоў.***

**Забела** (Zabiela) Гінтаўтас (н. 1962), літоўскі археолаг, гісторык. Д-р гуманітарных навук (1993). З 1988 працуе ў аддзеле археалогіі Ін-та гісторыі Літвы (з 1994 старшы навук. супрацоўнік). Даследуе археал. помнікі Літвы перыяду сярэдневякоўя (гарадзішчы, могільнікі), гісторыю літ. археалогіі, метады археал. даследаванняў. Аўтар кніг «Драўляныя замкі Літвы» («Lietuvos medinės pilys», Вільнюс, 1995), «Гісторыя археалогіі Літвы (да 1945 г.)» [«Lietuvos archeologijos istorija (iki 1945 m.)», Вільнюс, 1999, з П.Кулікаўскасам].

*Тв.*: Nalšia Lietuvos valstybės kūrimosi išvakarėse // Rytų Lietuva: Istorija, kultūra, kalba. Vilnius, 1992; Pilys Rytų Lietuvoje valstybės kūrimosi metu // Lietuvos valstybė XII—XVIII a. Vilnius, 1997; Mindaugo dvaras Latava // Lietuvos istorijos metraštis, 1997 m. Vilnius, 1998 (з Т.Баранаўскасам); Деревянные замки Литвы XII—XIV веков // Труды VI Международного Конгресса славянской археологии. М., 1999. Т. 5; Piliakalniai-slėptuvės // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2001. T. 21; Viduramžiū archeologija Lietuvoje // Lituanistica. 2001. № 3; Vilniaus senamiesčio archeologija: istorija ir dabartis // Lietuvos miestų istorijos šaltiniai. Vilnius, 2001. T. 3; Городище Шяйминишкеляй — предполагаемое место замка Ворута // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002.

**Забела** Тодар Іванавіч (сак. 1896, в. Чабусы Бабруйскага пав., цяпер у Любанскім р-не—1935?), беларускі гісторык. Скончыў БДУ (1925). З 1920 працаваў настаўнікам у сельскай школе, з 1921 — у Мінску. У 1925—28 вучыўся ў аспірантуры БДУ пад навук. кіраўніцтвам У.І.Пічэты. З 1928 навук. супрацоўнік у Інбелкульце і Бел. АН, з 1929 у Магілёўскім дзярж. архіве. Даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі, гарадоў Беларусі 16—18 ст., першым з бел. гісторыкаў даследаваў феад. памесце і становішча прыгоннага сялянства. Паказаў ролю заканадаўства, у прыватнасці Статута ВКЛ 1588, ва ўсталяванні і далейшым умацаванні прыгонніцтва на Беларусі, падкрэсліваў, што эксплуатацыя сялянства ў 18 ст. ўзмацнілася. Памылкова адзначаў заняпад эканомікі Беларусі ў канцы 18 ст., адмаўляў яе сувязь з рынкам. Арыштаваны 24.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы калегіі АДПУ ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Елабугу (Татарская АССР), дзе і памёр. Рэабілітаваны 15.11.1957.

*Тв.*: Земляўласьнік і земляроб па Статуту Літоўскаму 1588 г. // Працы БДУ. 1928. № 20; Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII сталецьця // Зап. аддзелу гуманітарных навук Інбелкульта. Мн., 1928. Кн. 3; Места Берасьцейскае ў XVI сталецьці: (Сацыяльна-эканомічны нарыс) // Зап. аддзелу гуманітарных навук БАН. Мн., 1929. Кн. 8.

*Літ.*: Михнюк В.Н. Становление и развитие исторической науки Советской



Белоруссии (1919—1941 гг.). Мн., 1985. С. 207—210, 217; Копысский З.Ю., Чепко В.В. Историография БССР: Эпоха феодализма. Мн., 1986. С. 79, 81, 107; Іофе Э. Даследчык эпохі феадалізму // Бел. мінуўшчына. 1996. № 6.

*Уладзімір Міхнюк.*

**Забелы**, шляхецкі род герба «Тапор». Родапачынальнік — баярын Татвойш, які ў 2-й пал. 15 ст. атрымаў ад вял. князя Казіміра зямлю ў Мядэкшах на Ковеншчыне. Унука Татвойша звалі Забела, ад яго і пайшоў род З. З 17 ст. карысталіся графскім тытулам. Найб. вядомыя:

Ян (?—крас. 1761), кашталян мсціслаўскі з 1752.

Антоній (?—18.8.1776), генерал-паручнік войска ВКЛ (1761), маршалак ковенскі ў 1744—61, вял. лоўчы ВКЛ у 1761—75.

Юзаф (?—9.5.1794), сын Антонія. Вял. лоўчы ВКЛ у 1775—93, гетман польны ВКЛ з 1793. Маршалак *Таргавіцкай канфедэрацыі*, за што пакараны смерцю ў час *паўстання 1794*.

Шыман (?—1793), кашталян менскі з 1787.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Забельскі дамініканскі калегіум**. Дзейнічаў у 1716—1838 пры *Забельскім кляштары дамініканцаў*. У 1787 калегіуму належала 5 фальваркаў з гадавым даходам 2547 руб. Пры калегіуме дзейнічаў *Забельскі школьны тэатр*. У 1802 — 3 класы з тэрмінам навучання 6 гадоў, 6 выкладчыкаў, 80 вучняў. З 1803 павятовае вучылішча ў складзе Віленскай навуч. акругі. У 1811 пераўтвораны ў гімназію, але дамініканцы захавалі і фінансавую самастойнасць. У 1838 гімназія закрыта. У З.д.к. выкладалі доктар філасофіі, аўтар падручніка па фізіцы Фелікс Цяцерскі, драматургі К.*Марашэўскі* і М.*Цяцерскі*, гісторык і мемуарыст Фаўстын *Цяцерскі*.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980.

*Адам Мальдзіс, Андрэй Самусік.*

**Забельскі кляштар дамініканцаў**. Існаваў у фальварку Забелы каля в. Валынцы Полацкага ваяв. (цяпер Верхнядзвінскі р-н). Заснаваў Р.Шчыт у 1716. Спачатку касцёл св. Георгія быў драўляны. У 1749 заключаны кантракт з І.К.*Глаўбіцам* на праектаванне мураванага касцёла. Будаўніцтвам кіраваў мясц. майстар Лаўбе. Касцёл — 1-нефавы храм, накрыты высокім клінаватым дахам з фігурнымі франтонамі-«дыядэмамі» на абодвух тарцах: на гал. фасадзе і над больш нізкай алтарнай апсідай. Вышынная пласціна 2-вежавага фасада-нартэкса выступала за межы нефа на шырыню чацверыкоў вежаў. Незалежная ад агульнай тэктонікі храма структура гал. фасада, рытм яго вертыкальных і гарызантальных чляненняў, тэлескапічная будова ярусаў вежаў, малюнак абрысаў франтонаў, праёмаў, валют з «грабеньчыкамі», дэкаратыўных вазонаў, рафінаваная пластыка ўваходнага прытвора — характэрныя рысы творчага почырку Глаўбіца. Бакавыя алтары выкананы тынкоўшчыкамі з Вільні. Касцёл асвячоны ў 1759, а гал. алтар завершаны і асвячоны ў 1766. Адначасова ў 1764—68 узведзены вежы і ўваходны прытвор. Аздоба інтэр'ера мела стылістычныя рысы ракако. Пры кляштары дзейнічаў *Забельскі дамініканскі калегіум*. Будынкі значна пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну, касцёл зруйнаваны ў канцы 1940-х г., будынак кляштара часткова захаваўся.

*Літ.*: Lorentz S. Materiały do historii wileńskiej architektury barokowej i rokokowej. Warszawa, 1989.

*Тамара Габрусь.*

**Забельскі школьны тэатр**. Існаваў у 18 ст. ў *Забельскім дамініканскім калегіуме*. Меў багаты разнастайны рэпертуар. Росквіт тэатра прыпадае на 1787—91, калі на яго сцэне ставіліся трагедыі і камедыі (на польскай мове) выкладчыкаў калегіума — «Свабода ў няволі» К.*Марашэўскага*, «Сапар», «Фемістокл», «Камедыя» М.*Цяцерскага*, «Крэз» і «Пышнагольскі» І.Юрэвіча. Спектаклі былі асветніцкімі па ідэйнай задуме і класіцыстычнымі па стылі. Асабліва гэта выявілася ў арацыях («судовых справах») — дыскусіях па надзённых грамадска-паліт. праблемах. У 1789 сіламі вучняў пастаўлена камічная аперэта «Апалон-заканадаўца, або Рэфармаваны Парнас», музыку да якой напісаў Р.Вардоцкі, лібрэта — Цяцерскі. Рукапісныя зборнікі тэкстаў камедый, трагедый і інш. на бел., польскай і лац. мовах захоўваюцца ў б-цы АН Літвы.

*Літ.*: Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Мн., 1980.

*Адам Мальдзіс.*

**Заблудаў** (польск. Zabłudów, цяпер горад у Падляскім ваяв., Рэспубліка Польшча), горад у Падляшскім ваяв. Узнік у часы каланізацыі пушчы Блудаў. У 1553 тут ужо існаваў касцёл, у З. праводзіліся кірмашы, належаў Хадкевічам. У 1563 Рыгор Хадкевіч заснаваў Успенскую царкву. У 1568—70 тут дзейнічала *Заблудаўская друкарня*, заснаваная І.*Фёдаравым* і П.*Мсціслаўцам*. У 16 ст. тут пачалі сяліцца яўрэі і шкоты (шатландскія эмігранты). Пасля Люблінскай уніі 1569 у складзе Польскага каралеўства. З 1598 уладанне біржанска-дубінкаўскай галіны роду Радзівілаў, пры якіх З. ператварыўся ў адзін з цэнтраў рэфармацыі: пабудаваны кальвінскі збор, пры якім знаходзіўся сіньёр і 2 міністры, мелася школа, праходзілі сіноды. У 1659 упершыню ўпамінаецца Успенскі манастыр (некат. гісторыкі лічаць, што манастыр існаваў ужо ў 1560—70-я г.). У 2-й пал. 17 ст. пры манастыры дзейнічалі школа, шпіталь, б-ка. З сярэдзіны 18 ст. манастыр стаў занепадаць. З 1807 ён падпарадкаваны Мінскай епархіі, у 1824 скасаваны. У 1695—1744 З. знаходзіўся ў складзе *«Нойбургскіх маёнткаў»*. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Прусіі.

*Валерый Грынявецкі.*

**Заблудаўская друкарня**. Існавала ў 1568—70 у г. *Заблудаў*. Заснавана ў маёнтку вял. гетмана ВКЛ Р.А.Хадкевіча першадрукарамі І.*Фёдаравым* і П.*Мсціслаўцам*, якія ў канцы 1560-х г. перасяліліся з Масквы на Беларусь. У дзейнасці друкарні, магчыма, прымалі ўдзел вучань Фёдарава Г.*Івановіч*, вядомы пазней майстар па вырабе шрыфтоў, і друкар В.*Гарабурда*. Поруч з маскоўскімі друкарскімі матэрыяламі шырока выкарыстоўвалася новая арнаментыка (застаўкі, канцоўкі, ініцыялы), буйныя фігурныя ксілаграфіі. Выдадзены «Евангелле вучыцельнае» (1569, уключала творы візантыйскай, балгарскай і старажытнарускай пісьменнасці, у т.л. «Слова на ўшэсце» Кірылы Тураўскага) і «Псалтыр з Часасloўцам» (1570). Спыніла дзейнасць у сувязі з грамадска-паліт. ўмовамі, якія ўскладніліся пасля ўтварэння Рэчы Паспалітай, а таксама хваробай пратэктара друкарні Хадкевіча. Заблудаўскія выданні неаднаразова перавыдаваліся друкарамі Гарабурдам, *Мамонічамі*, Святадухаўскага брацтва ў Вільні.

*Літ.*: Зернова А.С. Первопечатник Петр Тимофеев Мстиславец // Книга: Исслед. и материалы. М., 1964. Сб. 9; Ісаевич Я.Д. Першадрукар Іван Федоров і виникнення друкарства на Україні. Львів, 1975. С. 42—47; Немировский Е.Л. Иван Фёдоров


притча · о мытари и фарисеи ·

Поученія на избранныя ѿ евангелія и ѿ апостола

и ѿ иных божественных писаній · глемая ѿархи-
ереа и съучитель вовсякую нлю, на поученіе
хртоименитым людем, и на прочитаемая.
также и на господскія праздники · о мытари
и фарисеи · еулие ѿ луки · слово · а ·

Яко о мытари и фарисеи, притча нынѣ
яко поученіе нѣкое, и подвижение оу-
мышлено бысть стыми ѿцы, и научи-
ніе и пѣтися и прочитатися в сии недѣ-
ли, яко да направляемся и готовимся на
духовныя подвиги поста · сего ради и прово-
глашаемая и нарицается по греческому язы-
ку. провозвѣщающии и проповѣдающии, иже
по семъ мало приходящее покаяния постное
время · якоже аще нѣкую страсть в души на-
шихъ и первая имущии очистим сию, и тако гото-
ви бывше. къ всесностным подвигом поста и воздержа-
нія поидем · къ пути бо спасенія первое есть, ра-
скаяніе, и обращеніе, и смиреніе · к добродѣ-
телям же поврежение бывает, гордыня

Да арт. **Заблудаўская друкарня**. Старонка «Евангелля вучыцельнага». 1569.

Узначальваў групоўку радных паноў, якая варагавала з фаварытам вял. князя Аляксандра М.Л.Глінскім. У выніку скаргі апошняга ў 1505 пазбаўлены Троцкага ваяводства. Пры вял. князю Казіміру набыў вымарачныя маёнткі свайго родзіча Пятра Гедыгольдавіча Камень і Волма ў Менскім пав., ад стрыечных братоў Аляхновічаў — частку Крывічоў, Княгініна і інш., праз шлюб з Ганнай (дачка Мікалая Насуты) — Поразава ў Ваўкавыскім, Шарашова ў Берасцейскім, Квасоўку ў Гарадзенскім пав., Мяжырычы, Белую і інш. на Падляшшы, што зрабіла яго адным з найбуйнейшых магнатаў. Забіты ў час *Глінскіх мяцяжу 1508*. Меў сыноў Станіслава, Юрыя і Яна.

Ян Янавіч (каля 1480—1538), сын Яна Юр'евіча. Намеснік ваўкавыскі і крычаўскі, маршалак дворны ў 1506—16, ваявода новагародскі (1509), намеснік дарагічынскі (1514), маршалак земскі ў 1522—37, ваявода троцкі (1531). У пасаг за першай жонкай Барбарай Кезгайла атрымаў частку Палачан і Лужан у Ашмянскім пав. Другім шлюбам быў жанаты з Соф'яй Радзівіл. У 1529 ставіў у войска 197 коннікаў.

Ян Малодшы (каля 1510—каля 1545), сын Яна Янавіча. Маршалак дворны з 1529. Апошні з роду З. Паміраючы бяздзетным, завяшчаў маёнткі Палачаны, Лужаны і Занарач жонцы, князёўне Барбары Заслаўскай-Мсціслаўскай. Астатнія родавыя маёнткі адышлі яго сястры Ганне (жонцы Фрэдэрыка Сапегі, потым кн. Стафана Збаражскага).

*Літ.*: Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 391—395.

***Вячаслаў Насевіч.***

**Завілейскі павет**, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Створаны ў 1791 *Чатырохгадовым соймам 1788—92* з паўн. палавіны *Ашмянскага павета* Віленскага ваяв. Цэнтр — мяст. *Паставы*. Скасаваны *Гарадзенскім соймам 1793*.

**Завіша** Крыштоф Станіслаў (20.4.1666, в. Горка Слонімскага пав.—15.8.1721), пісьменнік-мемуарыст, дзярж. дзеяч Польшчы і ВКЛ. З роду *Завішаў*. Пасля смерці бацькі выхоўваўся дзядзькам, канцлерам ВКЛ М.А.Агінскім. Вучыўся ў Віленскай акадэміі, потым у Кракаве. З 1685 менскі староста, з 1720 ваявода. Прымаў актыўны ўдзел у паліт. жыцці, удзельнік пасольства К.Гржымултоўскага ў Маскву, некалькі разоў быў пасломна соймы, яго маршалак у 1697, 1718 і 1720. Неаднаразова мяняў паліт. арыентацыю. Спачатку быў прыхільнікам караля Аўгуста II, у час Паўн. вайны прыняў бок Станіслава Ляшчынскага. У 1686 у выніку жаніцьбы з Т.Тышкевіч атрымаў багаты пасаг, што дало яму магчымасць заняцца літ. дзейнасцю. Аўтар пераробкі італьян. рамана «Любасць без перамен» (1688), шэрагу прамоў на соймах, сабраных яго дачкой Б.Радзівіл (Завішай) у кнізе «Водгук прыемных мелодый» (Варшава, 1728), і інш. Найб. значнае ў літ. спадчыне З. — «Успаміны», дзе апісаны норавы і лад жыцця бел.-літ. шляхты канца 17—пач. 18 ст., гіст. падзеі, да якіх аўтар меў непасрэднае дачыненне.

*Тв.*: Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego (1666—1721). Warszawa, 1862.

***Уладзімір Мархель.***

**Завішы**, шляхецкі род герба «Лебедзь». Магчыма, з'яўляецца адным са шматлікіх адгалінаванняў літ. баярскага роду, які прыняў герб «Лебедзь» на Гарадзельскім з'ездзе 1413 (інш. адгалінаванні — Галігунтавічы, *Шэметы*, *Юндзілы*). Паводле генеалагічнага падання, З. спачатку карысталіся гербам «Ружа». Родапачынальнік Завіша ўпамінаецца ў 1443—86. Пакінуў сыноў Мікалая (упамінаецца ў 1496, нашчадкаў не меў) і Яна, двараніна гаспадарскага (1491), памёр да 1506. З сыноў Яна Юрый (каля 1480—да 1528) быў суддзёй земскім дарагічынскім і значным землеўладальнікам, яго ўдава ў 1528 ставіла ў войска 34 коннікаў. Гэта галіна абарвалася на сынах Юрыя — Мікалаю, Яне, Альбрэхце і Крыштофе ў сярэдзіне 16 ст. Брат Юрыя Ян (каля 1485—1524) у маладосці служыў Радзівілам, быў старастам любашанскім (да 1519), жыжморскім (з 1519) і падстолім ВКЛ у 1519—26, памёр без нашчадкаў. Далейшы род З. пайшоў ад другога брата Юрыя — Андрэя (каля 1490—да 1534), цівуна віленскага, які ў 1528 ставіў у войска 29 коннікаў. Другім шлюбам быў жанаты з Барбарай Кезгайла, іх дзеці пасля 1554 атрымалі значную частку спадчыны згаслага роду Кезгайлаў: Ракаў, воласць Бакшты са Смілавічамі і Дукорай і інш. маёнткі. З іх Ян (1520?—1557) даў пачатак старэйшай галіне, яго брат Мельхіёр (1525?—1592), маршалак гаспадарскі з 1578, кашталян віцебскі з 1588 — малодшай, якая згасла ў 2-й пал. 17 ст. З прадстаўнікоў старэйшай галіны найб. вядомыя:





Да арт. **Завішы**.
Я.Завіша.

Ян (каля 1550—1626), першы сын Яна. Падкаморы лідскі з 1593, ваявода мсціслаўскі з 1596, ваявода віцебскі і староста суражскі з 1599.

Юрый (каля 1555—пасля 1590), другі сын Яна. Валодаў маёнткам Ракаў, які праз шлюб яго адзінай дачкі Ганны з кн. Шыманам Самуэлем Сангушкам перайшоў да апошняга.

Андрэй (каля 1557—лют. 1604), трэці сын Яна. Ваявода менскі ў 1596—98, падскарбі земскі ВКЛ з 1598, уладальнік часткі маёнтка Бакшты, ад якога пісаўся «на Бакштах З.».

Мікалай (каля 1585—1647), сын Яна. Рэферэндар свецкі ВКЛ у 1625—26, кашталян віцебскі з 1626. Пакінуў толькі дачок.



Да арт. **Завішы**.
М.Завіша.



Да арт. **Завішы**.
А.К.Завіша.

Крыштоф (каля 1600—23.1.1670), сын Андрэя. Пісар ВКЛ (1637), староста менскі ў 1631—45 і браслаўскі (1645), маршалак надворны (1649), маршалак вялікі ў 1654—69, кашталян віленскі з 1669. Быў жанаты з Кацярынай Тышкевіч, пакінуў сыноў Андрэя Казіміра (1618—78; пісар ВКЛ) і Яна Ежы (каля 1620—71). Першы атрымаў пасля бацькі Менскае, другі — Браслаўскае староства. Ад Яна Ежы пайшла галіна, якая ў 19 ст. валодала маёнткамі ў Гродзенскай і Мінскай губ.



Да арт. **Завішы**.
І.Завіша.

Андрэй Казімір (каля 1614—23 або 26.6.1678). Староста менскі з 1638, чачэрскі, слонімскі, вял. пісар ВКЛ з 1650.

Крыштоф Станіслаў (1666—1721), сын Андрэя Казіміра. Гл. К.С.*Завіша*.

Ігнацій (каля 1690—16.8.1738), сын Крыштофа Станіслава. Граф «на Бакштах, Бярдзічаве і Завішыне», мечнік ВКЛ з 1730, падкаморы ВКЛ з 1734, маршалак надворны з 1736, староста менскі, чачэрскі, хаславіцкі, сумілішскі і інтурскі, ген.-маёр кавалерыі. Памёр без нашчадкаў.

*Літ.*: Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887; Pietkiewicz K. Kieżgajłowie i ich latyfundium do połowy XVI w. Poznań, 1982.

***Вячаслаў Насевіч.***

**задворны асэсарскі суд**, адзін з вышэйшых судоў ВКЛ, які разглядаў пераважна справы, што датычылі дзяржаўных уладанняў і магдэбургскіх гарадоў. Вылучыўся ў 16 ст. з *гаспадарскага суда*, разглядаў малазначныя і пільныя справы (больш важныя разглядаліся ў час соймаў *Радай Вялікага княства Літоўскага*). У 16 ст. называўся суд дворны, урад дворны судовы, двор гаспадарскі, суд урадн ікаў гаспадарскіх, з канца 16—пач. 17 ст. — суд задворны, суд задворны асэсарскі, асэсорыя. Функцыянаваў ў месцы знаходжання і паводле даручэння вял. князя (караля), судзіў ад яго імя. Першапачаткова складаўся з канцлера (падканцлера) і 3—6 чал. з радных паноў, якія прызначаліся манархам на пэўны тэрмін, і разглядаў усе справы, вызначаныя гаспадаром. У некат. выпадках прасіў у вял. князя «навуку» (інструкцыю), манарху падаваліся і апеляцыі. Пасля ўтварэння *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага* (1581), на разгляд якога паступалі судовыя справы шляхты, у кампетэнцыі З.а.с. засталіся цяжбы, што непасрэдна датычылі дзярж. уладанняў і магдэбургскіх гарадоў (іх насельніцтва і адміністрацыі). У сувязі з існаваннем суда *рэферэндара* сял. цяжбы не займалі значнага месца ў З.а.с. Ён у асноўным разбіраў іскі шляхты, звязаныя з кіраваннем староствамі і эканоміямі,



цяжбы магістратаў, цэхаў, мяшчан-купцоў. Пасля «ўраўнавання правоў» 1697 З.а.с. дзейнічаў на аднолькавых падставах з аналагічным судом Польшчы, склікаўся ў час працы соймаў. Шляхта дамагалася сталага суда і свайго прамога прадстаўніцтва ў ім. У 1736 Аўгуст III дазволіў канцлеру (падканцлеру) ВКЛ выконваць судаводства не толькі ў Варшаве, але і ў Гародні, Берасці незалежна ад сесій соймаў і без удзелу караля. З ліквідацыяй у 1764 рэферэндарскага суда доля сял. спраў, якія падаваліся ў З.а.с., значна вырасла. У 1766 сойм зацвердзіў статут суда — «Ардынацыя задворнага асэсарскага суда Вялікага княства Літоўскага». Месцам яго сесій вызначаны Варшава, Гародня, Берасце і Менск. Суд склікаў яго старшыня — канцлер (падканцлер) ВКЛ. У яго ўваходзілі сакратар вялікі, рэферэндар, пісар вялікі, асэсары (засядацелі), з правам дарадчага голасу — інстыгатар, віцэінстыгатар, рэгенты вял. і меншай канцылярый ВКЛ, пісар дэкрэтавы, які загадваў канцылярыяй. Асэсараў выбіралі на сойме са свайго асяроддзя сенатары (2 чал.) і паслы (10 чал.). Рашэнні прымаліся большасцю галасоў. Суду сталі падсудныя ўсе справы, якія раней вырашалі гаспадар і Рада ВКЛ і якія не ўвайшлі ў кампетэнцыю *соймавага суда*, Трыбунала ВКЛ, *Скарбовага трыбунала* ВКЛ: справы магдэбургскіх судоў, у т.л. тыя, што датычылі прывілеяў гарадам, справы паміж мяшчанамі, шляхтай і духоўнымі асобамі; справы дзярж. сялян, у т.л. іх цяжбы з трымальнікамі дзярж. уладанняў і памежныя справы дзярж. уладанняў з шляхецкімі і царкоўнымі; справы аб ленных маёнтках; справы пра парушэнне рэгальных правоў манарха шляхтай або духоўнымі асобамі; справы людзей убогіх і інш. Для вырашэння спрэчак суд ствараў спец. камісіі — *камісарскія суды*, куды ўваходзілі прадстаўнікі абодвух бакоў. Рашэнні гэтых судоў маглі быць абскарджаны ў З.а.с. Вырашэнне цяжбаў адміністрацыі дзярж. уладанняў з сялянамі і мяшчанамі засталося ў распараджэнні старшыні суда. З.а.с быў вышэйшай (апеляцыйнай) інстанцыяй для магдэбургскіх судоў ВКЛ. Сесіі (кадэнцыі) суда адбываліся з 1 ліст. да 1 мая. У 1791 Чатырохгадовы сойм 1788—92 увёў у склад суда 3 асэсараў — прадстаўнікоў мяшчан. Закон «Аб парадку гарадскіх судоў і асэсорыі» (кастр. 1791) устанавіў, што З.а.с. ВКЛ — вярхоўны апеляцыйны суд для ўсіх цяжбаў мяшчан магдэбургскіх гарадоў са сталым месцам знаходжання ў Вільні; цяжбы сялян выключаны з-пад яго нагляду. Гарадзенскі сойм 1793 аднавіў ранейшую кампетэнцыю суда.

*Літ.*: Леонтович Ф.И. Суд господарей и их советников в Великом княжестве Литовском до и после Люблинской унии // Журн. Мин-ва юстиции. 1909. № 7; Тяжбы литовских крестьян и жителей местечек с управителями имений. Ч. 1—2. Вильнюс, 1959—61.

*Валерый Пазднякоў.*

**Задзвінскае княства** (лац. Ducatus Ultradunensis, Ducatus Transdunensis), палітычна-адміністрацыйнае ўтварэнне на тэр. Лівоніі (*Інфлянтаў*), у 1566—69 злучанае з ВКЛ уніяй, з 1569 падуладнае Рэчы Паспалітай як кандамініум — супольнае ўладанне Польшчы і ВКЛ. Утворана 25.12.1566 на Гарадзенскім сойме. Першапачаткова ахоплівала тэрыторыі Лівоніі, якія знаходзіліся на Пн і У ад Дзвіны (Відземе, Латгалія, Паўд. Эстонія). У склад З.к. былі ўключаны не толькі былыя землі *Інфлянцкага ордэна*, але і секулярызаваныя ўладанні Рыжскага арцыбіскупства. Менавіта за гэтай тэрыторыяй у 2-й пал. 16—пач. 17 ст. замацавалася вузкае значэнне тэрміна Лівонія (Інфлянты). З.к. атрымала герб: у чырвоным полі белы грыф, які трымае ў правай пярэдняй лапе аголены меч, падняты ўверх; на грудзях — лацінскія ініцыялы Жыгімонта Аўгуста «SA» пад залатой каронай. У 1566 З.к. падзелена на 4 акругі: Рыжскую (латгальская частка Рыжскага арцыбіскупства), Трайдзенскую (ліўская частка Рыжскага арцыбіскупства), Вендэнскую (ордэнскія землі ад Рыгі да Гельмета і Руена) і Дынабургскую (ордэнскія землі ў Латгаліі) на чале з кашталянамі з ліку мясц. рыцарства. Гэтая адм.-тэр. структура ўлічвала ранейшы падзел Лівоніі на ордэнскія і біскупскія тэрыторыі. Кашталяны сталі членамі Рады ВКЛ. Люблінскі сойм 1569 абвясціў З.к. кандамініумам. Інфлянцкія кашталяны не атрымалі годнасці сенатараў Рэчы Паспалітай. У 1575—77 практычна ўся гэта тэрыторыя была занята войскамі цара Івана IV. Пасля адваявання Інфлянтаў Стафан Баторый у 1582 падпісаў «Інфлянцкую канстытуцыю», паводле якой без уліку ранейшага падзелу краю былі ўтвораны Вендэнскі, Парнаўскі і Дорпацкі прэзідыяты. Тэр. З.к. павялічылася пераважна за кошт былога Дорпацкага біскупства, якое не брала ўдзелу ў актах падданства, бо ў 1558 было занята рас. войскамі. Часткай З.к. стала Рыга і яе патрыманіяльная акруга. Інфлянцкія прэзідэнты не атрымалі месца ў Сенаце Рэчы Паспалітай. У выніку рэвізій і зямельных наданняў у прэзідыятах адбыўся падзел на паветы і старасты, цэнтрамі якіх сталі ранейшыя ордэнскія ці біскупскія замкі (паводле «Інфлянцкай ардынацыі» 1589 створана 26 старастваў). Паводле «Інфлянцкай ардынацыі» 1598 прэзідыяты перайменаваны ў ваяводствы, што азначала уніфікацыю ў статусе з інш. тэрыторыямі Рэчы Паспалітай; інфлянцкія ваяводы і кашталяны сталі сенатарамі Рэчы Паспалітай. Інфлянцкія ўрады (пасады) павінны былі пароўну камплектавацца з прадстаўнікоў 3 «народаў» — ВКЛ, Польшчы і Лівоніі. У 1585 у склад З.к. была ўключана *Пільтэнская акруга* — тэрыторыя былога Курляндскага біскупства (Зах. Латвія). Манарха ў З.к. рэпрэзентаваў адміністратар, які меў шырокія адміністрацыйныя і судовыя паўнамоцтвы. У 1566 адміністратарам прызначаны Я.Хадкевіч, у 1578 — М.Радзівіл Руды. У 1582 ужо як губернатар прызначаны новы прадстаўнік манарха — віленскі біскуп Ю.Радзівіл. Адначасова створана пасада генеральнага камісара, якому падпарадкаваны ўсе дзяржаўцы замкаў і які меў права ад імя манарха рабіць зямельныя наданні. Пасля вызвалення ад пасады Ю.Радзівіла (1584) генеральны камісар стаў найвышэйшай адміністрацыйнай асобай у Інфлянтах. Генеральнымі камісарамі былі: С.Пенкаслаўскі (1582—88), Я.Дз.Салікоўскі і Л.Сапега (прызначаны ў 1598 для рэвізіі дзярж. маёнткаў і ўтварэння новых старастваў). У 1603 адміністратарам прызначаны Я.К.Хадкевіч (да 1621), які ў 1604 адначасова стаў генеральным камісарам, што азначала ліквідацыю фармальнага паралелізму цэнтр. улады ў правінцыі. У выніку *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* большая частка З.к. была страчана на карысць Швецыі. Паводле *Альтмаркскага перамір'я 1629* у складзе Рэчы Паспалітай засталіся толькі 4 паўд.-ўсх. латгальскія старасты — Дынабургскае, Рэжыцкае, Люцынскае і Марыенгаўзенскае, з якіх у 1677 створана *Інфлянцкае ваяводства* (княства). Паводле *Аліўскага міру 1660* Рэч Паспалітая канчаткова прызнала за Швецыяй заваяваную ёю частку Інфлянтаў.

*Літ.*: Kuntze E. Organizacja Inflant w czasach polskich // Polska a Inflanty. Gdynia, 1939; Staemmler K.-D. Preußen und Livland in ihren Verhältnis zur Krone Polen 1561—1586. Marburg/Lahn, 1953; Tarvel E. Stosunek prawnopaństwowy Inflant do Rzeczypospolitej oraz ich ustrój administracyjny w l. 1561—1621 // Zapiski historyczne. 1969. Z. 1; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 9. Urzędnicy inflanccy XVI—XVIII wieku. Kórnik, 1994; Heyde J. Zwischen Kooperation und Konfrontation: Die Adelspolitik Polen-Litauens und Schwedens in der Provinz Livland 1561—1650 // Zeitschrift für Ostmitteleuropa-Forschung. 1998. H. 4; Heyde J. Kość niezgody — Inflanty w polityce wewnętrzynej Rzeczypospolitej w XVI—XVII wieku // Prusy i Inflanty między średniowieczem a nowożytnością. Państwo — społeczeństwo — kultura. Toruń, 2003.

***Алег Дзярновіч.***

**«Задора»**, прыватнаўласніцкі герб, якім карысталася больш за 60 родаў Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы, у т.л. Борхі, Даўгялы, Кезгайлы, Лянцкаронскія. У блакітным полі сярэбраная галава льва, з пашчы якога шугае полымя. Клейнод — над прылбіцай з каронай такая ж галава. Вядомы з канца 14 ст., у ВКЛ — пасля *Гарадзельскай уніі 1413*.



Герб **«Задора»**.

***Валерый Пазднякоў.***

**заезд**, інеквітацыя, у ВКЛ узброены напад на маёнтак на законнай падставе паводле пастановы судовых улад з мэтай змены ўласніка. Існаванне З. было выклікана адсутнасцю ў ВКЛ сталых органаў мясц. улады і ўзброеных каманд для выканання судовых пастаноў. Дазвол на З. прымаў суд тады, калі трымальнік маёнтка страчваў на яго правы ў выпадку продажу, перадачы ў заставу, сканчэння тэрміну заставы, арэнды або трымання, уступлення ў дзеянне тастамента і інш. і адмаўляўся перадаць маёнтак новаму законнаму ўладальніку. У гэтым выпадку юрыдычны ўладальнік маёнтка мог сабраць узброены атрад і ажыццявіць адпаведную пастанову суда гвалтоўным чынам. Праведзенне З. не рэгламентавалася ў праве, таму яны суправаджаліся шматлікімі злоўжываннямі. З. забаронены соймавай канстытуцыяй 1685. Забарона адноўлена ў 1768, калі былі дазволены З. толькі для выдалення дзяржаўцаў, з якімі скончыўся кантракт, і застаўнікаў, грошы якім былі заплачаны. З. як праява шляхецкага самакіравання выклікаў сімпатыі ў творах рамантычнага кірунку (напр., паэма А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш, альбо Апошні заезд на Літве»).

***Валерый Пазднякоў.***

**«Заканадаўчыя акты Вялікага княства Літоўскага XV—XVI стст.»** («Законодательные акты Великого княжества Литовского XV—XVI вв.»), зборнік заканадаўчых і нарматыўных актаў, прывілеяў і судовых спраў ВКЛ. Выдадзены ў 1936 Ленінградскім ун-там як навуч. дапаможнік для студэнтаў-гісторыкаў і юрыстаў, аспірантаў і выкладчыкаў. Падрыхтаваны І.І.Якаўкіным. Змешчана больш за 20 дакументаў: *прывілей 1447*, *Судзебнік 1468*, Устава дзяржаўцам 1529, урыўкі з *«Уставы на валокі»* 1557, фрагменты Статутаў ВКЛ 1529, 1566, 1588 і інш. Усе матэрыялы — перадрук з ранейшых выданняў. Дакументы даюць канкрэтнае ўяўленне пра «асноўныя рысы феадальнага ладу» ВКЛ 15—16 ст.: павелічэнне і ўмацаванне зямельнай уласнасці феадалаў, складванне іерархічнай структуры шляхты, сістэму эксплуатацыі сялянства, класавую барацьбу і г.д. Правапіс крыніц адаптаваны. У дадатку — кароткая храналагічная табліца па гісторыі ВКЛ, тлумачальны слоўнік. Пры характарыстыцы гіст. працэсаў аўтар зборніка зыходзіў з некаторых памылковых уяўленняў тагачаснай сав. гістарыяграфіі: лічыў, што запрыгоньванне сялянства было абумоўлена развіццём толькі паншчыны, што ў выніку Люблінскай уніі 1569 ВКЛ было далучана да Польшчы. Істотным недахопам з'яўляюцца адсутнасць каментарыяў і абмежаваная колькасць крыніц пра рэалізацыю заканадаўчых норм.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**закупы**, у ВКЛ у 14—16 ст. збяднелыя сяляне, якія бралі ў феадала грошы ў доўг і за гэта закладвалі сваю асобу ў няволю да крэдытора на час, пакуль не адпрацуюць доўг у гаспадарцы пана або пакуль не вернуць яго. З. станавіліся таксама злачынцы, што прыгаворваліся судом да штрафаў, але былі неплацежаздольнымі і таму выдаваліся пацярпелым «головой», «шеей», або «горлом» у часовую няволю «на выробок» (да адпрацоўкі доўгу-штрафу), і інш. неплацежаздольныя даўжнікі незалежна ад прычын паходжання доўгу. З. да разліку не меў права пайсці ад крэдытора. У выпадку адмовы працаваць, плаціць доўг або ўцёкаў З. выдаваўся крэдытору да поўнага разліку. Пры гэтым сума доўгу, якая пагашалася працай («выпуст»), спачатку вызначалася дагаворам, а потым — Статутамі ВКЛ 1529, 1566 і 1588. З сярэдзіны 16 ст. з запрыгоньваннем асн. масы сялянства і істотным абмежаваннем яго праваздольнасці закупніцтва як форма часовай няволі паступова знікла.

*Літ.*: Ясинский М.Н. Закупы Русской Правды и памятников западнорусского права. Киев, 1904.

***Міхаіл Спірыдонаў.***

**Залатарэнка** Васіль Нічыпаравіч [?—28.9(8.10).1663], нежынскі палкоўнік з 1658. Паходзіў з казацкай старшыны. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654*—67 атрад З. летам і восенню 1654 дзейнічаў у складзе войска брата — І.Н.*Залатарэнкі* пад Гомелем і Старым Быхавам і разам з рас. войскамі пад Магілёвам і Віцебскам, вызначыўся пры аблозе Смаленска. Зімой і вясной 1655 удзельнічаў у баявых дзеяннях супраць войска ВКЛ на Беларусі. У жн. 1655 атрад З. заняў вял. тэрыторыі на берагах Нёмана. Пасля смерці брата часова быў наказным нежынскім палкоўнікам. У 1658 падтрымаў гетмана І.Я.*Выгоўскага*. Атрымаў ад урада Рэчы Паспалітай шляхецтва. У пач. 1659 З. разам з чарнігаўскім і лубенскім палкоўнікамі перайшоў на бок Расіі і ўдзельнічаў у барацьбе супраць Выгоўскага. У 1660 цар Аляксей Міхайлавіч падараваў З. Гомель, але той не здолеў умацавацца ў горадзе. Пасля пераходу гетмана Ю.Хмяльніцкага на бок Рэчы Паспалітай (1660) З. і наказны гетман Я.С.Самко камандавалі казацкімі палкамі, якія ў складзе рас. войска адбівалі напады войска Рэчы Паспалітай на Левабярэжную Украіну.



З. вёў барацьбу супраць Самко і І.Бруховецкага. Быў абвінавачаны ў здрадзе і па загадзе Брухавецкага пакараны смерцю.

**Залатарэнка** Іван Нічыпаравіч [?—7(17).10.1655], нежынскі палкоўнік з 1653, паплечнік Б.*Хмяльніцкага*. З 1654 наказны гетман укр. казацкага 20-тысячнага войска (Нежынскі, Старадубскі і Чарнігаўскі палкі), пасланага на Беларусь у распараджэнне цара Аляксея Міхайлавіча ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1654 заняў Гомель, Рэчыцу, Жлобін, Стрэшын, Рагачоў, Прапойск, Чачэрск і Новы Быхаў, у 1655 — Бабруйск, Глуск, Каралеўскую Слабаду, Свіслач, Койданава, удзельнічаў у захопе Менска і Вільні, пасля чаго паліў шэраг гарадоў і мястэчак у Бел. Панямонні. Вызначаўся асаблівай жорсткасцю ў адносінах да мясц. насельніцтва. Найб. пацярпеў ад казакоў З. Магілёўскі пав., у якім збівалі людзей, забіралі збожжа і жывёлу. Загінуў у час *Быхава абароны 1654—56*.

*Літ.*: Модзалевский В.Л. Малороссийский родословник. Т. 1. Киев, 1914.

***Генадзь Сагановіч.***

**Залатая Арда**, Улус Джучы, дзяржава, якая існавала ў 13—15 ст. Узнікла ў пач. 1240-х г. Займала тэр. Зах. Сібіры, Паўн. Харэзма, Волжскай Булгарыі, Паўн. Каўказа, Крыма, стэпаў ад Волгі да Дуная. У васальнай залежнасці трымала рус. землі. Напачатку займала зах. частку імперыі Чынгісхана — тэр. ўдзельнага княства (улуса) яго сына Джучы (адсюль адна з назваў З.А.). Самастойнай дзяржавай стала пры Батыю, сыне Джучы. Арабскія гісторыкі называлі яшчэ З.А. Дэшт-і-Кіпчак (Кіпчацкая Арда). Усх. частка улуса Джучы (Зах. Сібір) атрымала пазней назву Блакітнай Арды. Батый у выніку паходаў 1236—40 далучыў да сваіх уладанняў Паволжа, кіпчацкія стэпы, Паўн. Каўказ, Крым, Харэзм, скарыў рус. княствы. У сярэдзіне 13 ст. хан Берке [1258—66] прыняў іслам і не стаў прызнаваць вярх. улады мангольскага хана. Першапачатковая сталіца З.А. г. Сарай-Бату (каля сучаснай Астрахані), з 1-й пал. 14 ст. перанесена ў г. Сарай-Берке (каля сучаснага Валгаграда). Аб пераўтварэнні З.А. ў самастойную дзяржаву сведчыць чаканка манеты з імем пятага хана Менгу-Цімура [1267—80]. Пасля яго смерці ў выніку міжусобнай вайны перамогу атрымала частка арыстакратыі мусульманскага веравызнання. Яна вылучыла на ханскі пасад Узбека [1313—42], унука Менгу-Цімура. Пры Узбеку і яго сыне Джанібеку [1342—57] З.А. ператварылася ў адну з вял. дзяржаў сярэдневякоўя. На працягу 45-гадовага праўлення яны цвёрда трымалі ўладу ў сваіх руках, бязлітасна душылі праяўленне самастойнасці васалаў. У выніку прыдворных змоў і смут у канцы 1350-х г. былі забіты многія царэвічы з роду Узбека, на працягу 1357—80 на пасадзе перабывала 20 ханаў. У 1370-я г. ў выніку феад. драблення З.А. фактычна распалася на 2 часткі: у раёнах на З ад Волгі правіў цемнік Мамай, ва ўсх. раёнах — Урусхан. Унутранае бязладдзе скарысталі маскоўскія князі. У *Кулікоўскай бітве 1380* войскі Мамая пацярпелі паражэнне. Часовае аднаўленне адзінства З.А. адбылося пры хане Тахтамышу, які ў 1380 разбіў Мамая на р. Калка, а праз 2 гады заняў і спаліў Маскву. Але правіцель Сярэдняй Азіі Тамерлан (Цімур) у 1391 і 1395 разбіў войскі Тахтамыша, разрабаваў сталіцу. На гэтым скончылася адзінства З.А. Апошнюю спробу аб'яднаць дзяржаву зрабіў Едыгей (памёр у 1419). Складаныя працэсы феад. драблення прывялі ў 2-й пал. 15 ст. да распаду З.А. на Казанскае, Сібірскае і Астраханскае ханствы, Нагайскую Арду, уласна Вял. Арду і *Крымскае ханства*.

На працягу больш як 2,5 стагоддзя ВКЛ было ў складаных адносінах з З.А. Вясною 1238 мангола-татары пагражалі з У. Але ў выніку гераічнай барацьбы насельніцтва Смаленскага княства з войскамі чужаземцаў іх прасоўванне на З спынілася. У жн. 1242 татары зноў спрабавалі ўзяць Смаленск, але былі адбіты. У канцы 1246 мангола-татары ўварваліся на тэр. ВКЛ з Пд, зрабілі вял. спусташэнні. У 1258, 1275, 1277 разам з ардынскімі войскамі ў паходах на ВКЛ удзельнічалі і дружыны галіцка-валынскіх князёў, але былі адбіты. Дайшлі летапісныя звесткі аб жорсткіх бітвах з татарамі, пра ўшчэнт разбітага ворага дружынамі з Пінска, Слоніма, Навагародка, Турава, Друцка і інш. гарадоў. Сыны навагародскага кн. Карыята Юрый, Аляксандр, Канстанцін і Фёдар пры падтрымцы кн. Альгерда вызвалілі Малое Падолле ад ардынскага іга. Упартая працяглая барацьба і гераічная абарона сваіх зямель насельніцтвам ВКЛ аслабіла і падарвала сілы заваёўнікаў і дазволіла пазбегнуць ардынскага ярма. Князі ВКЛ не толькі абаранілі свае землі, але і наладзілі саюз з ханамі З.А. супраць агульных праціўнікаў. Разгром сіламі ВКЛ ардынцаў у *бітве каля Сініх Вод 1362* задоўга да бітвы на Куліковым полі быў першым буйным паражэннем Арды і даў магчымасць пашырыць уладанні ВКЛ на Пд да вусця Дняпра і Днястра, устанавіць уладу Гедзімінавічаў над Кіеўскім і Валынскім княствамі, Падоліяй, Чарнігаўшчынай і Севершчынай. У выніку З.А. страціла кантроль над значнымі тэрыторыямі, якія складалі некалі ядро Кіеўскай Русі. Вял. князі Гедзімін, Вітаўт і інш. запрашалі татараў З.А. і выкарыстоўвалі іх у барацьбе з Тэўтонскім ордэнам. Татары ўдзельнічалі ў вайне Гедзіміна з крыжакамі яшчэ ў 1319, у 1350 ардынскія атрады ўдзельнічалі ў паходзе вял. князя Кейстута ў Польшчу. У ВКЛ знаходзілі прытулак беглыя ханы і прэтэндэнты на ханскі пасад. У сак. 1395 пасля паражэння ад Цімура на тэр. ВКЛ адступіў хан Тахтамыш са сваёй дружынай, жыў у Лідзе ў асобным доме, які доўга называлі Тахтамышавым дваром. ВКЛ сярод цюркскіх народаў мела славу надзейнага прыстанішча: група мурзаў на чале з Мансурам Кіятам Мамаевічам эмігрыравала сюды пасля бітвы на Куліковым полі, Лекса Мансуравіч атрымаў Глінскую і Палтаўскую валасці на У ад Дняпра і даў пачатак роду *Глінскіх*. Вітаўт, скарыстаўшы з'яўленне скінутага ардынскага ўладара, вырашыў з дапамогаю Тахтамыша дабіцца, у прыватнасці, кантролю над Уладзімірскім княствам, якое ўсё яшчэ лічылася васалам З.А. У выніку іх сумеснага паходу пад Азоў у канцы 1397 яны прывялі шмат татараў, якія былі паселены каля Вільні, у Ашмянскім, Берасцейскім, Лідскім, Навагародскім паветах. *Бітва на Ворскле 1399* завяршылася паражэннем войск Вітаўта і Тахтамыша, які пасля ўцёкаў апынуўся ў Сібіры, спрабаваў самастойна захапіць ханскі пасад, але быў забіты. Кантакты ВКЛ з З.А. захоўваліся, нашчадкі Тахтамыша разлічвалі на саюз з ёю ў барацьбе за адраджэнне сваёй улады над «улусам Джучы». У 1409 да Вітаўта прыбыў з 30-тысячным войскам сын Тахтамыша царэвіч Джэлал-эд-Дзін, які прымаў удзел у *Грунвальдскай бітве 1410* супраць Тэўтонскага ордэна. У ордэнскіх хроніках адзначаецца, што галоўнакамандуючы ордэнскім войскам вял. магістр



Ульрых фон Юнгінген загінуў у бітве ад рукі татарскага воіна Багардзіна. Пасля Грунвальда татары ўдзельнічалі ў ваен. дзеяннях да падпісання Тарунскага міру 1411. Летам 1411 пры падтрымцы Вітаўта Джэлал-эд-Дзін авалодаў Крымам, зімою 1412 захапіў пасад у З.А. У жн. 1412 даўні вораг Вітаўта эмір Едыгей арганізаваў забойства Джэлал-эд-Дзіна і на пасад прызначыў яго брата Керыма Берды. Але Вітаўт у 1413 у Вільні вылучыў ханам З.А. Бетсуб-Улана, малодшага сына Тахтамыша. Упершыню ў гісторыі З.А. яе правіцель быў каранаваны ў сталіцы ВКЛ і прыняў ханскую шапку з рук вял. князя літоўскага. Бетсуб-Улан прымаў удзел у вайне з ордэнам. У канцы 1414 яго паход на З.А. скончыўся паражэннем, сам хан загінуў у сутычцы з войскамі Едыгея. Пачаўся заняпад З.А., уладанні апошніх ханаў называлі Вял. Ардой, часам Заволжскай Ардой. Адносіны ВКЛ з Ардою абвастрыліся. У 1416 войскі Едыгея спустошылі землі Украіны, захапілі Кіеў. Вітаўт выставіў новым кандыдатам на ханскі пасад Ерымфердэна, сына Тахтамыша, які таксама быў каранаваны ў ВКЛ і на кароткі час захапіў уладу ў Ардзе. Керым Берды быў забіты, таму Едыгей узвёў на пасад Дэрвіш-хана, скінуўшы Ерымфердэна. У 1420 саюзнікі Вітаўта — мурзы улуса Шырын — здзейснілі новы пераварот, у выніку якога Дэрвіш-хан і Едыгей былі забіты. У 1422 сталіца Арды дасталася прыхільніку ВКЛ хану Дэўлет Берды. Але пасля сваркі з вял. князем літоўскім хан вымушаны быў шукаць прытулак у Крыме. З прэтэнзіяй на пасад выступіў Улуг-Мухамед, сын Джэлал-эд-Дзіна. У 1423 ён звярнуўся за дапамогай да вял. князя і ў 1424 з дапамогай Вітаўта павёў жорсткую барацьбу з інш. прэтэндэнтамі (у 1425 іх было 6) і толькі ў 1429 перамог. У 1433 хан падтрымаў у барацьбе за велікакняжацкі пасад кн. Свідрыгайлу, але вясною 1434 выслаў свае атрады на дапамогу яго саперніку кн. Жыгімонту Кейстутавічу. Свідрыгайла ў сваю чаргу падтрымаў саперніка хана Кічы-Мухамеда. Пасад у Ардзе дастаўся трэцяму іх праціўніку — Сеід-Ахмеду. Улуг-Мухамед быў паселены са сваім акружэннем на Севершчыне. Адтуль ён перасяліўся ў Ніжні Ноўгарад, затым у Казань і стаў там заснавальнікам ханскай дынастыі. Адзін з яго сыноў стаў першым ханам васальнага ад Маскоўскага княства Касімаўскага царства. Сеід-Ахмед прымаў актыўны ўдзел у *феадальнай вайне 1432—39* на баку Свідрыгайлы, потым Міхаіла Жыгімонтавіча. Новы вял. князь Казімір Ягайлавіч і яго акружэнне падтрымалі Хаджы-Гірэя, другога праціўніка Сеід-Ахмеда. Пры падтрымцы войск Радзівіла і князёў Шырынскіх Хаджы-Гірэй захапіў Крым і стаў заснавальнікам дынастыі *Гірэяў*. Легенда, запісаная ў 16 ст., сведчыць, што гэты хан нарадзіўся ў ВКЛ у Троках. У 1455 пасля разгрому Хаджы-Гірэем войск Сеід-Гірэя апошні ўцёк у Кіеў, перавезены ў Вільню, пазней паселены ў Ковенскі замак, дзе і памёр. У 1476 у ВКЛ знайшлі прытулак сыны Хаджы-Гірэя (Даўлет і Айдар) пасля паражэння ў барацьбе за крымскі пасад, у пач. 1480 яны пераехалі ў Маскву. У 1502, пасля разгрому войска Вял. Арды крымскім ханам Менглі-Гірэем апошні яе хан Шэйх Ахмед (Шах-Ахмат) з братамі, сынамі і прыдворнымі схаваўся ў ВКЛ. Там ён быў на становішчы ганаровага палонніка, хоць тытулаваўся «царом Заволжскім» і суправаджаў Жыгімонта Старога ў некаторых урачыстых выхадах. Вясною 1527 па просьбе нагайскіх татараў ён быў адпушчаны ў Арду. Гл. таксама *Татары*.

*Літ.*: Тизенгаузен В. Сборник материалов, относящихся к истории Золотой Орды. Т. 1. СПб., 1884; Т. 2. М.; Л., 1941; Греков Б.Д., Якубовский А.Ю. Золотоя Орда и ее падение. М.; Л., 1950; Сафаргалиев М.Г. Распад Золотой Орды. Саранск, 1960; Босворт К.Э. Мусульманские династии: Пер. с англ. М., 1971; Греков И.Б. Восточная Европа и упадок Золотой Орды (на рубеже XIV—XV вв.). М., 1975; Tyszkiewicz J. Tatarzy na Litwie i w Polsce: Studia z dziejów XIII—XVIII w. Warszawa, 1989.

***Ібрагім Канапацкі.***

**Заленскі** (Шлюбіч-Заленскі) Леў (каля 1638, Валынь—21.7.1708), дзеяч грэка-каталіцкай царквы Рэчы Паспалітай. Напачатку рыма-католік, уступіў у ордэн базыльян. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах Оламаўца (Чэхія) і Рыма. З 1679 епіскап уладзімірскі і берасцейскі, архімандрыт Кобрынскага манастыра. Удзельнічаў у Люблінскім з'ездзе уніятаў і праваслаўных (1680). Мітрапаліт кіеўскі (1694—1708), захаваў пасады епіскапа ўладзіміра-берасцейскага, архімандрыта кобрынскага, дзярманскага і дубенскага. У 1697 перадаў Полацкае архіепіскапства М.Белазору. У час кіравання З. да уніяцкай царквы далучаны Львоўская (1700) і Луцкая (1702) епархіі. Спрыяў росту ўплыву базыльян. Занепакоены праследаваннямі уніятаў рас. войскамі ў час *Паўночнай вайны 1700—21* уцёк у Аўстрыю (1705). Пасля вяртання на радзіму (1708) у хуткім часе памёр.

*Літ.*: Stebelski J. Chronologia... Lwów, 1867; Яго ж. Ostatnie pracy // Scriptores Rerum Polonicarum. Kraków, 1878. T. 4; Назарко І. Київські і Галицькі митрополити. Рим, 1962.

***Сяргей Казуля.***

**Залускі** Лукаш Станіслаў (1604—20.8.1673), дзеяч каталіцкай царквы, педагог, філосаф. З шляхецкага роду герба «Касцеша», аселага ў Менскім ваяв. У 1620 у Вільні ўступіў у ордэн езуітаў, з 1632 ксёндз. Магістр філасофіі (1639), д-р тэалогіі (1651). Вучыўся ў Віленскай акадэміі, дзе ў 1636—40 і 1651—54 выкладаў філасофію, свяшчэннае пісанне, тэалогію, у 1659—60 у Браневе — тэалогію, у 1660—62 у Крожах — маральную тэалогію. Прэфект школ у Нясвіжы (1648—49, 1658—59) і Менску (1657—58). Шмат гадоў быў місіянерам і прапаведнікам, узначальваў езуіцкія рэзідэнцыі. У 1640 апублікаваў у Вільні пад імем свайго вучня М.Мнішка вялікі нарыс «Агульная філасофія» («Universa philosophia»), які складаецца з раздзелаў «Практычная філасофія» (падраздзелы «Этыка», «Эканоміка», «Палітыка») і «Тэарэтычная філасофія» (падраздзелы «Логіка», «Натуральная філасофія», «Метафізіка»). Аўтар шматлікіх панегірыкаў.

*Тв.*: Рус. пер. — Общая философия // Памятники философской мысли Белоруссии XVII—первой половины XVIII в. Мн., 1991. С. 93—109.

*Літ.*: Чарнышова Л.А. «Практычная філасофія» Лукі Залускага // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1980. № 2.

***Валерый Пазднякоў.***

**замак**, абарончы аб'ект, які ўяўляе сабой замкнёны комплекс абарончых, жылых і іншых спецыялізаваных пабудоў, выконвае рэзідэнцыяльныя і адміністрацыйна-публічныя функцыі. Мяркуецца, што ў бел. мову тэрмін «З.» запазычаны з польскай, куды трапіў з чэшскай, дзе з'яўляецца калькай ням. Schloß (замок, за́мак). У 14—15 ст. у дачыненні да ўмацаваных сядзіб ужываўся таксама тэрмін «двор», да 14 ст. ў дачыненні да абарончых збудаванняў у горадзе выкарыстоўвалася стараж.-слав. слова «градъ».



Праблема генезісу раннесярэдневяковых З. як сацыяльнай з'явы застаецца дыскусійнай у бел. і літоўскай гістарыяграфіі. Лічыцца, што на ўсх.-слав. землях у канцы 10—12 ст. у выніку дзейнасці дзярж. цэнтраў паўсталі памежныя З., а на мяжы 12—13 ст. як вынік паглыблення феад. адносін з'явіліся З. — рэзідэнцыі феадалаў. Нявысветлена пытанне пра прычыны адсутнасці пераемнасці паміж большасцю ўмацаваных феад. сядзіб 12—13 ст. і З. эпохі ВКЛ. На тэр. Літвы вылучаецца этап драўляных З. (11—пач. 15 ст.), «драўляныя замкі», паводле Г.Забелы, з'яўляюцца сінонімам паняцця «позняя гарадзішчы». Такія З. будаваліся і аднаўляліся на працягу 1 года. Колькасць абаронцаў драўлянага З. звычайна не перавышала 100 чал. У большасці драўляныя З. ў Літве ўзніклі, існавалі і зніклі на працягу 13—14 ст., г.зн. у перыяд барацьбы з Нямецкім ордэнам. Найб. вядомы замкі ў Жамойці — Імпілціс (упершыню згаданы ў 1253), Вялена (Велюона, 1291), Бісэне (1283), Мядзвягаліс (1316); у Аўкштайціі — Кернава (Кярнаве; 1291), Пуня (1382), Мерач (Мяркіне, 1387). Значным цэнтрам была Кернава, якая складалася з 4 умацаваных гарадзішчаў і была гал. рэзідэнцыяй Трайдзеня. Да 1340-х г. рэйды ордэна часта прыпыняліся каля гэтага буйнога драўлянага З. і заканчваліся разарэннем ваколіц. Пазней ордэн пачаў арганізоўваць больш маштабныя паходы ў глыб тэр. ВКЛ. Менавіта драўляныя З. Літвы прынялі на сябе гал. ўдар нямецкай экспансіі супраць ВКЛ, бо змаганне адбывалася пераважна за Жамойць.

Але аблогі і бітвы 14 ст. паказалі, што супрацьстаяць сілам ордэна драўляныя З. не маглі. У ВКЛ пачалося будаўніцтва мураваных З. Да гэтага часу на бел. і ўкр. землях ужо існавала практыка мураванага абарончага дойлідства (замкавыя муры канца 12 ст. ў Гародні і Кіеве, мураваныя вежы «валынскага тыпу» 13 ст. ў Стоўп'і, Бялавіне, сяле Спас пад Холмам, у Холме, Чартарыйску, Гародні, Берасці, Камянцы, Тураве). Такія аўтаномныя вежы прызначаліся для кругавога абстрэлу і служылі ядром абароны З. Адносна гіст.-архітэктурнага статусу гэтых аб'ектаў пашырана меркаванне, што яны былі вежамі тыпу данжон, але ў адрозненне ад класічнага данжона гэтыя вежы не выконвалі функцыі сталага жытла, бо не мелі эфектыўнай сістэмы ацяплення. Вежы «валынскага тыпу» найб. блізкія да бергфрыдаў — абарончых вежаў нямецкіх З., якія былі пазбаўлены жылой і рэзідэнцыяльнай функцыі. Вежы-«стаўпы» маглі знаходзіцца як у цэнтры канцэнтрычных абарончых умацаванняў, так і каля брамы ці выступаць за перыметр умацаванняў. Камянецкай вежы ўласцівы раннеготычныя рысы. У далейшым вежы-«стаўпы» выконвалі абарончыя функцыі ў З. эпохі ВКЛ (Камянец, Берасце, магчыма, Гародня). Але ў 14 ст. ў ВКЛ будаваліся ўжо цалкам мураваныя З.

Адна з выразных асаблівасцей у замкавым будаўніцтве ВКЛ — стварэнне замкаў-кастэляў. Вельмі праўдападобна, што ў будаўніцтве кастэляў бралі ўдзел нямецкія майстры, якія прыехалі ў ВКЛ па запрашэнні вял. князя Гедзіміна, зробленым у 1323. У ВКЛ вядомы 4 кастэлі: *Ковенскі замак, Крэўскі замак, Лідскі замак, Медніцкі замак*. У бел. гістарыяграфіі будаўніцтва Лідскага З. адносяць да 1330-х г., а будаўніцтва Крэўскага З. можа быць аднесена нават да канца 13—пач. 14 ст. У літ. гістарыяграфіі ўзвядзенне Лідскага З. датуюць 1-й чвэрцю 14 ст., Крэўскага З. — 1-й пал. 14 ст., Медніцкага З. — канцом 13—пач. 14 ст., Ковенскага З. — канцом 13 ст. Даследчыкі знаходзяць у кастэлях ВКЛ некат. рысы, якія сведчаць аб недастатковай кампетэнтнасці фартыфікатараў. Упершыню замкі-кастэлі згаданы ў летапісах 2-й пал. 14 ст. Абапіраючыся на гэтыя звесткі, а таксама на выніку археал. даследавання Ковенскага З., А.Жалнерус прапанаваў наступную храналогію ўзвядзення кастэляў у ВКЛ: З. у Коўне пачалі будаваць у 1361 і пасля веснавой аблогі крыжакамі 1362 не скончылі; З. ў Медніках, Лідзе і Крэве былі пабудаваны пасля 1380. Іх аналагі знаходзяць у Лівоніі і Прусіі, але ў адрозненне ад іх З. ВКЛ маюць большыя памеры (мяркуецца, што яны былі прызначаны не толькі для размяшчэння ваенных гарнізонаў, але і для абароны мясц. насельніцтва). На мяжы 14—15 ст. адбылася мадэрнізацыя Крэўскага і Лідскага З. — там былі ўзведзены яшчэ па адной вежы. У далейшым кастэлі прынцыпова не перабудоўваліся. З улікам таго, што большасць кастэляў у Еўропе на працягу свайго існавання была значна мадэрнізавана, гэты архаічны тып З. Беларусі і Літвы мае вял. цікавасць для гісторыі архітэктуры.

Бел. і літ. гісторыкі і археолагі пры аналізе З. ВКЛ звычайна не ўлічваюць З. Украіны. Вопіс Верхняга і Ніжняга *луцкіх замкаў* 1545 сведчыць, што іх будаўніцтва пачалося пры Любарце, валынскім князю ў 1340—84. Будаўнічыя работы працягнуў Свідрыгайла. Гэта быў сапраўды значны замкавы комплекс, больш складаны, чым замкі-кастэлі. Некат. даследчыкі мяркуюць, што Любарт узвёў сцены і вежы Ніжняга З., а муры Верхняга З. пабудаваны яшчэ ў канцы 13—пач. 14 ст. Будаўніцтва луцкіх З. стала грандыёзным прадпрыемствам, у якім удзельнічалі валынскія майстры. Такім чынам, у ВКЛ у сярэдзіне 14 ст., акрамя будавання замкаў-кастэляў, існавала самастойная практыка мураванага абарончага дойлідства. Да таго трэба ўлічваць, што Карыятавічы — сыны князя Карыята, брата Альгерда, пасля 1363 стварылі цэлую сістэму гарадоў і замкавых умацаванняў у Падольскай зямлі (у т.л. *Камянец-Падольскі замак*, Смотрыч, Бакота), дзе за панаваннем татараў не існавала ніводнага замка. На працягу 1-й пал. 14 ст. сфарміравалася таксама сістэма мураваных Верхняга і Ніжняга *віленскіх замкаў* як рэзідэнцыя вял. князёў; у Вільні акрамя таго знаходзіўся драўляны Крывы замак. У 2-й чвэрці 14 ст. маштабнае будаўніцтва вялося ў Віцебску, дзе ў 1330-х г. (?) быў абмураваны Верхні З., а ў 1351 завершана ўзвядзенне мураваных сцен і вежаў у Ніжнім З. Пісьмовыя крыніцы называюць кіраўніком будаўніцтва Верхняга З. Альгерда, а Ніжняга — яго 2-ю жонку Ульяну. Віцебскія З. выконвалі функцыі агульнагар. умацаванняў (Ніжні З. ахапіў старажытны пасад), але ў Верхнім З. знаходзілася рэзідэнцыяльныя будынкі («палаты»), у т.л. палац Альгерда, таму гэты аб'ект трапляе пад дэфініцыю З. Ужо ў Віцебску і Луцку абазначылася тэндэнцыя ў замкавым будаўніцтве ВКЛ — асваенне З. і дзядзінцаў ранейшай эпохі, арганізацыя там мураванага будаўніцтва, вырашэнне новых абарончых задач. Класічным прыкладам гэтай тэндэнцыі можа лічыцца ўзвядзенне Вітаўтам у канцы 14—пач. 15 ст. на месцы стараж. дзядзінца гатычнага *Гарадзенскага Старога замка*. Гэтыя З. належаць да т.зв. нерэгулярнага тыпу, іх планіроўка вызначана тапаграфічнымі ўмовамі. Вельмі часта абарончыя муры практычна паўтаралі канфігурацыю пляцоўкі пагорка, на якім



узводзіўся З. Але ў Оршы мураваны З. у канцы 14 ст. пачалі ўзводзіць не на старaж. дзядзінцы, а на тэрыторыі за ровам. Для прац у Оршы быў запрошаны майстар-муляр з Караляўца (Кёнігсберга). З. нерэгулярнага тыпу характарызуюцца развітай сістэмай абарончых збудаванняў і складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй. Да такіх З. належалі і *Троцкія замкі* (пач. 14—пач. 15 ст.), *Навагародскі замак* (канец 14—16 ст.), *Мядзельскі замак* (15—16 ст.), Крэменецкі З. на Валыні (2-я пал. 13—16 ст.).

У пач. 15 ст. разбудаваны Троцкі астраўны З., які стаў улюбёнай рэзідэнцыяй Вітаўта. Тут упершыню ў ВКЛ рэзідэнцыяльная частка вырашана як канвентхаўз (З. тыпу канвенцкага дома, кляштара) — 4-вугольны З., усе бакі якога выконвалі не толькі абарончую, але і рэзідэнцыяльную функцыю; унутраны двор у такіх З. даволі малы ў параўнанні з агульнымі памерамі пабудовы. Для ўзмацнення абароны перад канвентхаўзам стваралі форбург — цалкам абарончую частку замкавага комплексу. У адрозненне ад папярэдняга і наступнага перыядаў, у раннегатычны перыяд у замкавай архітэктуры адбывалася зліццё грамадзянскіх і абарончых функцый.

Яшчэ адзін новы тып З. ВКЛ вядзе свой радавод ад новага Ковенскага З. канца 14—пач. 15 ст. — гэта рэгулярныя З. правільнай геаметрычнай формы. Усе такія З. былі ўласнасцю вял. князя і мелі агульнадзярж. значэнне. Але эвалюцыя сац. адносін у ВКЛ прывяла да таго, што абарончыя ўмацаванні новага тыпу пачалі ствараць і ў магнацкіх рэзідэнцыях. Найперш гэта тэндэнцыя выявілася на Валыні. На апошнюю чвэрць 14 ст. прыпадае аднаўленне *Астрожскага замка* і пабудова там магутнага данжона (Мураваная вежа). У 15 ст. князі Астрожскія пабудавалі З. у Дубне, пасля 1475 князі Чартарыйскія — З. у Клевані, у апошняй чвэрці 15 ст. князі Несвіцкія (Збаражскія) аднавілі Збаражскі З. Росквіт прыватнага замкавага будаўніцтва пачаўся з канца 15 ст., пасля сац.-паліт. стабілізацыі новай магнатэрыі ВКЛ. Пераважна гэта былі З. рэгулярнага тыпу, дзе вытрымліваецца 4-вугольны план і выкарыстоўваюцца абарончыя ўмацаванні штучнага характару ў адрозненне ад ранейшых прыродных, як, напр., *Геранёнскі замак* (канец 15—пач. 16 ст.) і *Мірскі замак* (1-я палова 16 ст.). Геранёнскі З. стаў пераходным на шляху замены З. з мураванымі гатычнымі абарончымі ўмацаваннямі на новы тып З. рэнесансавай эпохі — з землянымі бастыёнамі і курцінамі. Ствараліся таксама З. нерэгулярнага тыпу са змяшанымі муравана-драўлянымі ўмацаваннямі, план якіх падпарадкаваны рэльефу мясцовасці (*Іказненскі замак* пач. 16 ст.).

Працягвалі існаваць дрэва-земляныя З. ў старaж. гаспадарскіх гарадах — Верхні замак у Полацку, Менску, Берасці, Мсціславе і інш. Яшчэ ў апошняй трэці 14 ст. кіеўскі князь Уладзімір Альгердавіч пабудаваў у Кіева на Кісяліўцы драўляны З. Адным з найбуйнейшых драўляных З. ВКЛ стаў узведзены ў 1542 пад кіраўніцтвам гараднічага І.Слушкі новы *Кіеўскі замак*, які меў 15 вежаў. Гэтыя З. былі адм. цэнтрамі, пасля 1566 найчасцей у іх размяшчаліся рэзідэнцыі ваявод, а ў Менскім З., да таго ж, пасля 1582 адбываліся кадэнцыі Трыбунала ВКЛ.

На працягу 16 ст. ў многіх бел. гарадах тэрмін «З.» замацаваўся за старaж. дзядзінцам і вакольным горадам, найчасцей у варыянце Горны (Высокі) — Дольны (Ніжні) З. Часам адбывалася перарaзмеркаванне функцыі даўніх структурна-тапаграфічных частак. Напр., у Клецку, які ў 1558 перайшоў ва ўласнасць Радзівілаў, сеньёрыяльная рэзідэнцыя размясцілася ў Дольным замку (былым вакольным горадзе). Такія З. заставаліся структурнымі часткамі гарадоў і ў спец. л-ры іх разглядаюць у кантэксце абарончых умацаванняў і матэрыяльнай культуры ўсяго горада. Інш. З. ў 15—16 ст. таксама мелі дрэва-земляныя ўмацаванні (З. 1526 у Магілёве, у Мазыры, Ніжні З. — старасцінскі двор у Кобрыне, З. ў Астрашыцкім Гарадку, Лоску, Радашковічах, Ракаве, Лагойску, у Корацы на Валыні). У 1544 з дрэва збудаваны Жытомірскі З. «у дзве сцяны» і з 6 вежамі. Усё 15 ст. і 1-я пал. 16 ст. для рэгіянальнай і цэнтр. адміністрацыі ВКЛ заставалася балючай праблема татарскіх нападаў на паўд. мяжы дзяржавы. У 1-й пал. 16 ст. на гэтым небяспечным напрамку ад Усх. Падолля да Дняпра працягнулася лінія драўляных З. (напр., Чаркаскі З., збудаваны ў 1549 «людзьмі добрадзярэўцамі падняпроўскімі вярховымі»).

Імклівае развіццё артылерыі ў 2-й пал. 15—16 ст. зрабіла малаэфектыўнымі абарончыя функцыі цалкам мураваных З. Земляныя ўмацаванні набылі новую актуальнасць, але ў інш. абліччы — бастыёнаў. У сярэдзіне 16 ст. збудаваны бастыённы *Заслаўскі замак*, які цікавы яшчэ тым, што ілюструе працэс трансфармацыі агульнагар. ўмацавання ў сеньёрыяльную рэзідэнцыю. Магутнейшыя бастыённыя З. ў 1580-х г. стварaюць Радзівілы — *Нясвіжскі замак* і *Біржанскі замак*. Першапачаткова паводле стараітальянскіх узораў бастыёны і курціны аблямоўваліся палявым каменнем і цэглай. Але шырокае выкарыстанне ў артылерыі чыгунных ядраў вымусіла адмовіцца ад аблямоўкі, бо адарваныя ядрамі дробныя фрагменты камянёў часта ранілі саміх абаронцаў. Таму паступова бастыённыя сістэмы пачалі абкладаць зямлёй, а каменне выкарыстоўвалі для ўмацавання ўнутранай канструкцыі бастыёна. Бастыённыя ўмацаванні ў 17 ст. сталі ствараць і вакол З., якія раней іх не мелі, напр., у пач. 17 ст. ў Мірскім З. (бастыёны і курціны галандскага тыпу з гліны і пяску). Яшчэ адна новая тэндэнцыя выявілася ў З. гэтага тыпу — за бастыёнамі хаваліся палацы, функцыянальная роля якіх у агульнай сістэме абароны павялічылася.

У 2-й пал. 16—пач. 17 ст. завяршыўся працэс трансфармацыі З. у палацава-замкавыя комплексы, што праявілася ў адасабленні мураваных пабудоў грамадзянскага характару ад абарончых умацаванняў. Асн. акцэнт быў перанесены на стварэнне прадстаўнічай рэзідэнцыі з развітай сістэмай жыллёвых і гасп. пабудоў, функцыянальным прызначэннем якіх было забяспечыць разнастайныя жыццёвыя патрэбы насельнікаў такіх комплексаў. У выкарыстанні будаўнічых матэрыялаў адбыўся адыход ад рацыянальнай эканоміі, калі актыўна выкарыстоўваўся палявы камень розных памераў. Паступова цэгла выцесніла камень, ва ўжытак пачаў уводзіцца апрацаваны камень. Вял. ўвага аддавалася інтэр'ерам. Такія аб'екты, як *Гальшанскі замак* (1-я пал. 17 ст.), з'яўляюцца яскравым прыкладам перамогі гэтай тэндэнцыі — вонкава рэпрэзентатыўныя, дзякуючы сваім бастыёнам, яны выконвалі абарончыя функцыі ў эпоху артылерыі, але цэнтр. мураваныя будынкі комплексаў ужо былі палацамі інкастэляванага выгляду. У канцы 16—пач. 17 ст. будаваліся палацава-замкавыя комплексы і без бастыёнаў, але ў такім выпадку яны вельмі арганічна прывязваліся да прыроднага ці ўпісваліся ў навакольнае штучнае



асяроддзе, як *Любчанскі замак* (1570—80-я г.) на стромкім беразе Нёмана ці *Панеманскі замак* (1604—10 г.) і *Смальнянскі замак* (1620-я г.) пасярод сістэмы сажалак. Перабудова ў 1580-х г. Гарадзенскага З. пад рэнесансавую рэзідэнцыю Стафана Баторыя паказвае прыклад мадэрнізацыі стараж. гаспадарскай рэзідэнцыі.

Яшчэ адзін тып абарончых аб'ектаў, якія падпадаюць пад дэфініцыю З. як умацаванага жылля феадала ў вясковай мясцовасці — гэта жылы дом у Гайцюнішках (1613, гл. *Гайцюнішскі дом-замак*). Такі тып абарончa-жылых пабудоў не атрымаў вял. пашырэння. Таму ў вясковай мясцовасці захоўваўся яшчэ тып пабудоў, якія па сваёй планіроўцы нагадваў рэгулярныя З., але сістэма фартыфікацыі ўжо не была такой магутнай. Такімі з'яўляюцца рэнесансавыя рэзідэнцыі — *Раўданскі замак* (канец 16 ст.) і З. у Чырвоным Двары (Раўдандварыс; канец 16—1-я пал. 17 ст.) на месцы ранейшых крыжацкіх З. па берагах Нёмана.

У 18 ст. тэрмін «З.» замацаваўся і за значнымі палацавымі комплексамі, напр., Гарадзенскім каралеўскім палацам (гл. *Гарадзенскі Новы замак*). Усё ж у 17—18 ст. рэальныя абарончыя функцыі маглі выконваць толькі бастыённыя сістэмы, якія акрамя паняцця «З.» пазначаюцца тэрмінам «фартэцыя» ці «цытадэль». З 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст. ўмацаванні З., пераважна прыватнаўласніцкіх, ужо не мадэрнізаваліся, а толькі аднаўляліся пасля разбурэнняў. Пашырэнне тэрміна «З.» прывяло і да таго, што з 16 ст. ім пазначалі і месцы зняволення. Але ўжо ў 19 ст. ў прыгожым пісьменстве склаўся рамантычны вобраз З. ВКЛ, якія сталі метафарай гераічнай гісторыі ў творчасці А.Міцкевіча, А.Петрашкевіч, Я.Чачота і інш. Аўтары з кола філаматаў і філарэтаў, распавядаючы пра З., маглі іншасказальна паведаміць пра ўвесь забраны край. У Беларусі ў 2-й пал. 20 ст. гэту традыцыю таленавіта працягнуў У.Караткевіч, які прыўнёс у тэму элементы містыкі і жанравай квазігатычнасці. У выяўленчым мастацтве З. былі любімым сюжэтам ад Н.Орды праз Я.Драздовіча да Я.Куліка. Апісанне замкавых умацаванняў пачалося ў сярэдзіне 19 ст. (К.Тышкевіч), а навук. вывучэнне З. ВКЛ — у 1920—30-я г., шмат у чым гэта было звязана з працамі польскіх рэстаўратараў па кансервацыі З. на тэр. Віленшчыны, Зах. Беларусі і Зах. Украіны. Даследаванні бел., літ., укр. археолагаў, гісторыкаў, архітэктараў аднавіліся ў 2-й пал. 1950-х г. і інтэнсіўна працягваюцца ў наш час.

*Літ.*: Prusiewicz A. Zamki i fortece na Wołyniu. Łuck, 1922; Lorentz S. Konserwacja ruin zamków na wileńszczyźnie i nowogródczyźnie // Ochrona zabytków sztuki. 1930/31. Z. 1—4; Брэжго Б. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Раппопорт П.А. Волынские башни // Материалы и исследования по археологии СССР. М., 1952. № 31; Митянин А.Я. Оборонительные сооружения Белоруссии XIII—XVII вв. // Сб. науч. работ Ин-та строительства и архитектуры АН БССР. Мн., 1958; Митянин А.Я., Вараксин Н.Н. К вопросу о деревянном замковом строительстве в Белоруссии (XVI—XVIII вв.) // Там жа. 1960. Вып. 3; Абрамаускас С. К вопросу генезиса крепостных сооружений типа кастель в Литве // Научные труды высших учебных заведений ЛитССР. Строительство и архитектура. Вильнюс, 1963. № 6; Lietuvos pilys. Vilnius, 1971; Ткачоў М.А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мн., 1977; Яго ж. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Замки Белоруссии. Мн., 1987; Яго ж. Замки Беларуси. Мн., 2002; Lietuvos architektūros istorija. T. 1. Nuo seniausių laikų iki XVII a. vidurio. 2 leid. Vilnius, 1988; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архитектурно-археологический анализ. Мн., 1988; Якімовіч Ю.А. Драўляныя замкі Беларусі XVI—XVIII стст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн., 1989; Яго ж. Зодчество Белоруссии XVI—середины XVII в. Мн., 1991; Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 1—8. Wrocław, 1991—96; Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. Мн., 1991; Kitkauskas N., Sliogeris V. Litauische Burgen in Zeitraum der Bildung und Zentralisierung des litauischen Staates (11—15. Jh.): Ergebnisse ihrer Forschung // Castella Maris Baltici. Stockholm, 1993; Лесник О.В. Замкі та монастирі України. Львів, 1993; Чарняўскі І.М. Развіццё палацава-замкавых комплексаў Беларусі ў канцы XV—XVII ст. // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі. Мн., 1993; Фортифікація України: Міжнародна конференція з проблем охорони фортифікаційних споруд в Україні. Кам'янец-Подільскиї, 1993; Zabiela G. Lietuvos medinės pilys. Vilnius, 1995; Pazdniakou W. Założenie urbanistyczne miast Białorusi Południowej w XVI—XVIII wieku // Archeologia Historica Polona. T. 3. Toruń, 1996; Вайцяховіч З. Краіна замкаў, альбо Беларусь на старажытным малюнку. Мн, 1997; Мацюк О. Замкі-фортеці Західної України. Львів, 1997; Polak T. Zamki na kresach: Białoruś, Litwa, Ukraina. 2 wyd. Warszawa, 1997; Defensive fortifications in Lithuania. Vilnius, 2001; Заяц Ю.А. Замкі // Археалогія Беларусі. Мн., 2001 Т. 4; Макараў М. Да пытання выкарыстання тэрміну «данжон» (donjon) у беларускай гістарычнай літаратуры // Гістарычны альманах. Гародня, 2001 Т. 5; Мальченко О. Укрепленi поселення Брацлавського, Київського і Подільського воєводств (XV—середина XVII ст.). Київ, 2001; Семянчук Г. Да праблемы генезісу і функцыянальнага прызначэння раннесярэднявечных умацаваных паселішчаў-замкаў на тэрыторыі Беларусі // Castrum, urbis et bellum. Баранавічы, 2002; Дзярновіч А.І. Ля вытокаў традыцыі мураванага абарончага дойлідства на беларускіх і ўкраінскіх землях у канцы XII—XIV ст. // Беларусь—Україна: гістарычны вопыт узаемаадносін. Мн., 2004; Яго ж. Castella Alboruthenica: Castle building in Belarus at the crossroads of cultural influences in the 12th — 14th centuries // Castella Maris Baltici. Vilnius, 2004. T. 6; Кушнярэвіч А.М. Мураванае мілітарнае гатычнае дойлідства ВКЛ: гісторыка-архітэктурная тыпалогія // Весці БДПУ. Сер. 2. 2004. № 1.

***Алег Дзярновіч.***

**ЗАМКАВАЯ ПАВІННАСЦЬ**, павіннасць насельніцтва ВКЛ па будаванні і рамонце замкаў. Да 16 ст. была адной з асноўных дзярж. павіннасцей. Землеўладальнікі з вотчын выстаўлялі людзей на ўмацаванне тых частак замкаў, дзе яны разам хаваліся ў час аблогі. Дзярж. падданыя і сяляне выслужаных панамі маёнткаў павінны былі выконваць любыя загаданыя замкавыя работы. Утрыманне некат. замкаў або іх частак ляжала на дзярж. скарбе. Калі феадал будаваў уласны замак, яго падданыя да дзярж. З.п. не прыцягваліся. З.п. займала вял. месца сярод павіннасцей Падняпроўскіх валасцей. Да сярэдзіны 16 ст. іх насельніцтва ўдзельнічала ў будаўніцтве і рамонце замкаў у паўд. і ўсх. раёнах дзяржавы. У 15 ст. на пабудову ўкр. замкаў прыцягвалася насельніцтва з цэнтр. абласцей ВКЛ. У 16 ст. З.п. набыла характар мясц. павіннасці, з сярэдзіны 16 ст. часткова пераводзілася на грошы. У вял. гарадах да 18 ст. гар. ўмацаванні падзяляліся на часткі, утрыманне якіх даручалася пэўным гар. кварталам — сотням.

*Літ.*: Довнар-Запольский М. Государственное хозяйство Великого княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Том 1. С. 678—697; Грушевский А. Повинность городовой работы в Великом княжестве Литовском // Журнал Мин-ва нар. просвещения. 1914. № 11.

***Валерый Пазднякоў.***



**замкавы суд**, судовая ўстанова ў ВКЛ. У 15—1-й пал. 16 ст. З.с. дзейнічалі ў асноўных адм. цэнтрах у замках (адсюль назва). Правасуддзе ад імя вял. князя ажыццяўлялі намеснікі, ваяводы, старасты. З.с. разглядалі крымінальныя, цывільныя, памежныя справы. У сярэдзіне 16 ст. шляхта дамаглася права самой выбіраць суддзяў, функцыі З.с. адышлі да *земскіх судоў* і *гродскіх судоў* (апошнія некаторы час працягвалі называцца З.с.). Пасля гэтага З.с. захаваліся як патрыманіяльныя ў буйных магнацкіх латыфундыях (Біржы, Давыд-Гарадок, Клецк, Слуцк і інш.), разнавіднасць такога суда ў ардынацыях — *ардынацкі суд*. Узначальваўся намеснікам (старастам, падстарастам).

**замкавыя слугі**, катэгорыя насельніцтва ў ВКЛ. Паводле свайго становішча былі блізкія да *путных баяр* (слуг). Выконвалі службу пры гаспадарскіх замках: адвозілі лісты, пасылаліся з дробнымі даручэннямі і інш.

**Замойскі сабор 1720**, сход іерархіі уніяцкай царквы Рэчы Паспалітай 26.7—17.9.1720 у г. Замосце (Польшча). Скліканы па ініцыятыве мітрапаліта Льва Кішкі. Удзельнічалі ўсе епіскапы, 8 архімандрытаў, 129 прадстаўнікоў сярэдняга і ніжэйшага духавенства. Старшынстваваў папскі нунцый Геранім Грымальдзі. Сабор увёў у абрадавую практыку уніятаў каталіцкі сімвал веры (замест ранейшага агульнага з правасл. царквой), узгадванне папы рымскага ў час набажэнства. На уніяцкае духавенства распаўсюджаны шэраг норм рымска-каталіцкага кананічнага права. Для паляпшэння адукацыі святароў заклікаў епіскапаў заснаваць семінарыі, а пры базыльянскіх манастырах з колькасцю манахаў больш за 12 адкрыць багаслоўскія школы. Сабор абавязаў святароў тлумачыць вернікам асновы хрысціянства паводле катэхізісу, засноўваць прыходскія школы. Было прынята рашэнне надрукаваць малы катэхізіс для вернікаў і вялікі для святароў на «паспалітай» мове (выдадзены ў адной кнізе «Собрание припадков краткое», Супрасль, 1722, на бел. мове), выдаць адзіны для ўсіх епархій трэбнік (на царк.-слав. мове), забаронена карыстацца інш. богаслужэбнай л-рай. Сабор замацаваў аўтаномію ордэна базыльян ва уніяцкай царкве і прызнаў перавагу манахаў у заняцці пасад епіскапаў і дэканаў, аб'яднаў манастыры Уладзімірскай, Луцкай, Холмскай і Львоўскай епархій у адну кангрэгацыю. Захаваўшы асновы ўсх. чыну богаслужэння, сабор узаконіў шэраг змен, запазычаных у католікаў лацінскага абраду. Прынята лацінскае свята Божага Цела, узаконена святкаванне дня блажэнага пакутніка Іасафата Кунцэвіча, царк. начынне і адзенне святароў сталі набываць лацінскія рысы і г.д. У 1724 рашэнні сабора зацверджаны рымскім папам Бенядзіктам XIII, у 1725 абвешчаны ў епархіях Рэчы Паспалітай

*Літ.*: Synod prowincialny ruski w m. Zamościu r. 1720. Wilno, 1785; Стрельбицкий И. Униатские церковные соборы с конца XVI в. Вильна, 1888; Федорів Ю. Замойський Синод 1720 р. Рим, 1972.

***Сяргей Казуля.***

**Запарожская сеч**, ваенна-палітычная арганізацыя ўкраінскіх *казакоў*, казацкая вайсковая рэспубліка ў 16—18 ст. за Дняпроўскімі парогамі. Назва ад драўляных умацаванняў — «сечаў», якія рабілі казакі. Планы заснаваць на дняпроўскіх астравах ваенныя ўмацаванні з казакамі прапаноўваў у пач. 16 ст. А.*Дашковіч*. У 1-й пал. 16 ст. ўзнікла некалькі казацкіх драўляных умацаванняў за парогамі. У 1530-х г. разрозненыя казацкія грамады, звязаныя з асобнымі сечамі, аб'ядналіся ў адну арганізацыю — З.с., па назве гал. ўмацавання, дзе знаходзіўся цэнтр. орган кіравання — кош. Адным з арганізатараў запарожскага казацтва стаў князь Дз.І.Вішнявецкі, які каля 1554—55 пабудаваў замак на в-ве Малая Хорціца. Першапачаткова З.с. узнікла, відаць, на в-ве Тамакоўка (каля сучаснага г. Марганец Днепрапятроўскай вобл.), з 1593 — на в-ве Базаўлук (Старая сеч, каля сучаснага с. Капулаўка Днепрапятроўскай вобл.), у 1636—52, відаць, у Мікіціным Розе (цяпер. г. Нікапаль), з 1652 — у сутоках р. Чартамлык (каля с. Капулаўка). З.с. пастаянна папаўнялася збеглымі прыгоннымі сялянамі, у т.л. з Беларусі, і гар. беднякамі. Вышэйшы орган — вайсковая (сечавая) рада, якая выбірала старшыну (кашавога атамана, пісара, суддзю і інш.). Запарожскія казакі займаліся жывёлагадоўляй і промысламі (гал.ч. рыбалоўствам і паляваннем), земляробства заняло прыкметнае месца толькі з сярэдзіны 18 ст. Усе запарожскія казакі лічыліся свабоднымі і роўнымі ў правах, хоць існавала маёмасная няроўнасць. Пісанае права адсутнічала. Сямейнага насельніцтва амаль не было. Кожны казак быў абавязаны несці вайсковую службу за ўласны кошт. У вайсковых адносінах падзялялася на курані. З.с. вяла барацьбу з польска-ўкр. землеўладальнікамі, крымскімі татарамі і туркамі. Запарожцы ўдзельнічалі ў шматлікіх сял. выступленнях на Украіне, у *Налівайкі паўстанні 1595—96*. З паўстання ў З.с. пад кіраўніцтвам Б.*Хмяльніцкага* пачалася вызваленчая вайна ўкр. народа 1648—54, *антыфеадальная вайна 1648—51* на Беларусі. У 1709 за ўдзел запарожцаў у Булавінскім паўстанні 1707—08 і дапамогу шведам у час Паўн. вайны 1700—21 З.с. ліквідавана рас. ўладамі. У 1734 на р. Падпольная створана т.зв. Новая сеч, якая ўдзельнічала ў рас.-турэцкіх войнах 1735—39 і 1768—74. Канчаткова ліквідавана ў 1775 пасля паўстання Е.Пугачова пры Кацярыне II як небяспечны асяродак нар. хваляванняў. Частка казакоў уцякла да туркаў і заснавала Задунайскую сеч. З другой часткі ў 1787 утворана Чарнаморскае казацкае войска.

*Літ.*: Эварницкий Д.И. История запорожских козаков. Т. 1—3. СПб., 1892—97; Голобуцкий В.А. Запорожское казачество. Киев, 1957; Козацькі січі: (Нариси з історії укр. козацтва XVI—XIX ст.). Київ; Запоріжжя, 1998; Полководці Війська Запорозького: Іст. портрети. Кн. 1. Київ, 1998; История Запорожской Сечи. Киев; М., 2003.

**Запінскі павет**, Пінска-Зарэчны павет, адм.-тэр. адзінка ВКЛ. Створаны ў 1791 Чатырохгадовым соймам 1788—92 шляхам падзелу *Пінскага павета* Берасцейскага ваяв. У З.п. увайшлі землі на Пд ад р. Прыпяць. Цэнтр — мяст. *Столін*. Скасаваны Гарадзенскім соймам 1793.

**запіснае**, грашовае, феадальная гаршовая павіннасць сялян у ВКЛ у 16—18 ст. Спаганялася пры ўнясенні *чыншу*. Звычайна складала 1 грош з кожнага злотага чыншу (адсюль другая назва). Была пашырана па ўсёй тэр. Беларусі. Зафіксавана ў інвентарах маёнткаў Дзяцічы (1757), Прусы (1791) Навагародскага ваяв., Варшава Руская (1756) Віцебскага ваяв. і інш.

*Літ.*: Лойка П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991.

***Павел Лойка.***

**Запрудскі замак.** Існаваў у 14—17 ст. каля в. Запруды на Кобрыншчыне. У склад замка ўваходзілі сядзіба феадала

(не зберагласся) і абарончыя ўмацаванні: земляныя валы з вастраколам наверсе і вадзяныя равы. У плане валы і равы нагадваюць упісаныя адзін у адзін прамавугольнікі, якія з У мелі бакі ў выглядзе паўдуг, што сыходзіліся ў месцы ўезду ў замак. Валы з гэтага боку згладжаны. Захаваліся валы вышынёй 1,5—2 м і шырынёй у аснове да 4 м. Равы маюць глыбіню да 2,5 м і шырыню каля 5 м.

*Міхась Ткачоў.*

**зарука**, з а к л а д, у судаводстве ВКЛ сума грошай, абумоўленая заручным лістом, якая падлягала спагнанню з таго, хто пагражаў, пры ўмове яго гвалтоўных дзеянняў супраць жыцця і здароўя другога боку. Памеры З. дасягалі 10 тыс. коп грошаў. Паводле Статута ВКЛ 1588 палавіна З. сплачвалася пацярпеламу або яго дзецям ці сваякам, другая — вялікакняжацкаму скарбу і суддзям. З. была своеасаблівай гарантыяй па грамадзянскіх справах да канчатковага іх разгляду, калі былі падставы асцерагацца, што адзін з бакоў будзе працівіцца выкананню судовага рашэння.

*Павел Лойка.*

**Заслаўе** (цяпер горад у Мінскім р-не, Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Менскім пав., на р. Свіслач. Вядомы з 10 ст. Паводле летапісных звестак, пабудаваны кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам для сваёй былой жонкі Рагнеды Рагвалодаўны і сына Ізяслава, цэнтр удзельнага княства. Відаць, з канца 13 ст. ў ВКЛ, вялікакняжацкі горад. У 1345 вял. князь ВКЛ Альгерд і Кейстут перадалі яго Яўнуту, нашчадкі якога зваліся князямі Заслаўскімі (Жэслаўскімі). У час *феадальнай вайны 1432—39* у 1434 быў захоплены войскамі Свідрыгайлы і спалены разам з *Заслаўскім замкам*. Да 1540 З. падзелена паміж дочкамі 3 братоў Заслаўскіх (Жэслаўскіх); большая яго частка належала Г.Ф.Заслаўскай і яе мужу Я.Ю.Глябовічу, якія да 1560 сталі адзінымі ўладальнікамі З. Потым уладанне іх сына Я.Я. Глябовіча, які рэканструяваў замак і пачаў будаўніцтва *Заслаўскага кальвінскага збору*. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 у Менскім пав. У 1570 у З. жыў С.*Будны*, у мястэчку працавалі кальвініцкая школа, друкарня (?), была наладжана вытворчасць паперы. У пач. 17 ст. збор пераасвяцілі ў касцёл Міхала Архангела. У 1625 пабудаваны касцёл Найсвяцейшай Дзевы Марыі (з 1779 мураваны), існавала уніяцкая царква. У 1676 (па інш. звестках з 1684) К.Я.Сапега і яго жонка Крысціна з Глябовічаў заснавалі ў мястэчку *Заслаўскі дамініканскі кляштар*. Паводле інвентару 1698, у мястэчку 89 дымоў (акрамя, відаць, касцельнай юрыдыкі), 4 вуліцы, цэнтрам планіровачнай структуры была рынчная плошча. У 17—18 ст. — цэнтр Заслаўскага графства. З 1753 уладанне Пшаздзецкіх. У 1772 З. атрымала каралеўскі прывілей на правядзенне 4 кірмашоў штогод, а таксама штотыднёвых таргоў. У канцы 18 ст. — пач.19 ст. пабудавана драўляная Мікалаеўская царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Д а ў г я л а З.І. Заслаўе на Меншчыне: (Гістарычны экскурс) // Зап. аддзела гуманіт. навук Ін-та бел. культуры. Мн., 1928. Кн. 5; З а я ц Ю.А. Заславль X — XVIII веков: (Ист.-археол. очерк). Мн., 1987; К р а с н о в а А. Рынкавая плошча ў Заслаўі // Бел. гіст. часоп. 1995. № 2; С п и р и д о н о в М.Ф. Заславль в XVI в. Мн., 1998.

*Валерый Грынявецкі.*

**Заслаўскі замак**. Існаваў у 11—18 ст. у мяст. *Заслаўе*. Размяшчаўся на беразе р. Свіслач, дзе рака, што цячэ па балоцістай нізіне, найбольш блізка падыходзіць да ўзвышша, на якім знаходзіцца горад. Сярод мясц. насельніцтва вядомы пад назвай «Вал». Замкавы палігон пл. каля 1,5 га меў форму чатырохвугольніка. Першапачатковыя ўмацаванні пабудаваны на мяжы 11—12 ст. Валы вышынёй 3—3,5 м былі насыпаны з пяску, іх схілы ўмацаваны пластом гліны і каменнем. На асобных участках вал умацоўваўся ўнутр. драўлянымі канструкцыямі. На падставе стратыграфічнага вывучэння абарончых збудаванняў вылучаны 4 перыяды іх будаўніцтва. Найбольш значныя перабудовы праводзіліся ў 2-й пал. 13 ст. і ў 14 ст., а таксама ў канцы 16 ст. і, магчыма, на пач. 17 ст. Акрамя гэтага, зафіксаваны сляды аднаўленчых работ пасля нападаў на горад у 1127 і 1434. У выніку ўсіх перабудоў вышыня вала да канца 16 ст. дасягала 8—9,5 м. У апошні перыяд былі ўзведзены бастыённыя ўмацаванні. 4 бастыёны размяшчаліся па вуглах замка, пяты бастыён, паўкруглай формы, захаваўся каля паўд. курціны. Галоўны праезд у замак знаходзіўся з паўд. боку паміж вуглавымі і паўкруглым бастыёнамі. Ён быў умацаваны 2-павярховай мураванай брамай памерам 24,7 × 21,6 м з арачным праёмам. Праезд шырынёю ў 7 м падзяляў ніжні паверх на 2 часткі, у кожнай з якіх было па 3 памяшканні; фундамент брамы заглыблены на 1,1 м, яна была накрыта плоскай дахоўкай. Ніжняя частка сцен зроблена ў тэхніцы мяшанай муроўкі з цэглы-пальчаткі і камянёў, верхняя — у тэхніцы рэнесансавай муроўкі. Таўшчыня фасаднай сцяны брамы 2,3 м, бакавых сцен 1,2—1,3 м. Уздоўж зах. сцяны брамы выяўлены падземны ход шырынёй 0,8 м, вышынёй 0,8—1,3 м са стральчатым скляпеннем. Сцены, скляпенні і падлога падземнага ходу з цэглы, уваход у лаз прамавугольны, падобны на калодзеж, памерамі 2,1 × 1 м, абшыты цэглаю. Найб. верагодна, што падземны ход быў звязаны з брамаю і выконваў ролю дрэнажнай сістэмы. У паўн. напрамку ён заканчваўся глухой сцяной, з Пд, дзе быў выхад у роў, падземны ход перакрыты ўмацаванымі наглуха жал. кратамі. Брама пабудавана ў канцы 16—пач. 17 ст., пасля 1650 была пашкоджана пажарам. Час разбурэння брамы вызначыць цяжка. Магчыма, што выява брамы, змешчаная на плане



**Заслаўскі замак**. Рэканструкцыя В.Сташчанюка.



маёнтка Заслаў 1753, перанесена з больш ранняга плана, бо ў той час яна была ўжо зруйнавана. На месцы паўн. праезда выяўлены і часткова даследаваны рэшткі малой мураванай брамы. Тэхніка муроўкі і характар матэрыялаў даюць магчымасць датаваць пабудову па часе збудавання паўд. брамы. Час разбурэння брамы таксама не высветлены. Магчыма, на захад ад яе быў дадатковы бастыён. У 19 ст. на яе месцы існавала мураваная брама малых памераў з вузкім арачным праездам. Да брамы з абодвух бакоў былі прыбудаваны мураваныя сцены, якія перакрывалі разрыў у паўд. курціне. У 2-й пал. 16 ст.—пач. 17 ст. тут пастаўлены мураваны храм (*Заслаўскі кальвінскі збор*) і мураваная будыніна, рэшткі якой адкрыты ў час раскопак усх. пляцоўкі замка. Руіны знаходзяцца на восі праездаў, дзе ў бастыённых замках звычайна будаваліся палацы. Ад горада замак аддзяляўся шырокім ровам. З канца 16 ст. тэр. вакол замка была заліта вадой штучнага возера, якое ўтварылі з дапамогай плацін на рэках Свіслач і Чарніца. Такім чынам замак ператварыўся ва ўмацаванне астраўнога тыпу. З горадам яго злучаў мост, апошні пралёт якога мог быць пад'ёмным. Мост і падыходы да брамы фланкіраваліся агнём з дадатковага паўд. і ўсх. бастыёнаў. Умацаванні Заслаўскага замка не належаць да канкрэтнай бастыённай сістэмы. Яны ўключаюць элементы некалькіх сістэм, што характэрна для замкаў, у якіх бастыёны спалучаліся з больш раннімі ўмацаваннямі. Палігон замка ўключаў 3 пляцоўкі рознай вышыні. Перапад вышынь паміж цэнтральнай (ніжняй) і крайнімі (зах. і ўсх.) пляцоўкамі ў пач. 12 ст. дасягаў 8 м. Культурны пласт з верхніх пляцовак перыядычна здымаўся і выкарыстоўваўся для ўмацавання валоў. З-за гэтага розніца ва ўзроўні пляцовак да 17 ст. зменшылася да 4,5—6,8 м. У цэнтр. частцы замка магутнасць культ. напластаванняў дасягае 5,5—6 м. У іх ёсць матэрыялы 10—18 ст. (пласт 10—11 ст. утварыўся ў час існавання на месцы замка неўмацаванага паселішча). Археолагамі выяўлены рэшткі драўляных пабудоў 12—17 ст., фундаменты і развалы кафляных печаў, сляды пажараў у выглядзе гарэлай драўніны і вуголля. Знойдзены таксама разнастайныя рэчы, якія храктарызуюць заняткі і побыт насельніцтва замка: наканечнікі коп'яў і стрэл, страмёны і шпоры, прылады працы рамеснікаў, керамічны і шкляны посуд, разнастайныя вырабы з жалеза, каляровых металаў, рогу і косці, шкла, каменю, скуры, манеты, у т.л. залатыя алтыны і дукат 16 ст. На падставе комплекснага вывучэння можна лічыць, што ў 12—13 ст. гэта ўмацаванае паселішча было дзядзінцам летапіснага Ізяслаўля, на адной з яго пляцовак знаходзіўся княжацкі двор. У 14—15 ст. умацаванні адыгрывалі ролю гарадскога замка, а з 16 ст. — уладальніцкага замка, у якім размяшчалася рэзідэнцыя ўладальнікаў горада. У 1676 зах. палова замка была перададзена заслаўскаму кляштару дамініканцаў, сродкі на які давалі Крысціна Барбара з роду Глябовічаў і яе муж Казімір Ян Сапега. У 18 ст. замак страціў ваен. значэнне, рэзідэнцыя ўладальнікаў горада была адтуль канчаткова перанесена.

*Літ.*: Заяц Ю.А. Заславль X—XVIII веков: (Ист.-археол. очерк). Мн., 1987; Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архит.-археол. анализ. Мн., 1988.

***Юрый Заяц.***

**Заслаўскі кальвінскі збор**. Пабудаваны на мяжы 16—17 ст. у Заслаўі паводле загаду троцкага ваяводы Я.Я.Глябовіча (у сваім тастаменце ад 28.7.1590 ён прасіў жонку завяршыць будаўніцтва збору і замка). У 1628 яго сын віленскі кашталян М.Я.Глябовіч перадаў збор католікам, якія перарабілі яго ў касцёл Міхала Архангела. З 1840 па 1962 — Спаса-Праабражэнская царква. Размешчаны ўнутры *Заслаўскага замка*, мае рысы стылю рэнесансу. Мураваны 1-нефавы прамавугольны ў плане храм пад высокім 2-схільным дахам. З захаду да яго прыбудавана 35-метровая вежа-званіца. Развіты атык, знадворны і ўнутраны парталы, гарызантальнае і вертыкальнае члянённі франтона і інш. надаюць манументальнасць параўнальна невялікаму будынку. Сцены знадворку дэкарыраваны пілястрамі і руставанымі вугламі-выступамі, у інтэр'еры самкнутыя скляпенні на падпружных арках пераходзяць у пілястры з прафіляванымі капітэлямі і базамі. Над уваходам драўляныя хоры. Пад зборам 2-частковая крыпта (пахавальня) з цыліндрычнымі скляпеннямі. Храм перабудоўваўся ў 1678 і 1865, сведчаннем чаго з'яўляецца рознахарактарная апрацоўка асобных частак фасада і таўшчыня сцен. Рэстаўрываваны ў 1968—72 і 1990-я г. Цяпер правасл. Спаса-Праабражэнская царква.

*Літ.*: Чантурия В.А. Архитектурные памятники Белоруссии: (новые обмеры) // Архитектурное наследство. М., 1964. Вып.



**Заслаўскі кальвінскі збор.**



17; Testament Jana Hlebowicza, wojewody trockiego // Augustyniak U. Testamenty ewangelików reformowanych w Wielkim Księstwie Litewskim. Warszawa, 1992.; Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993.

*Валянцін Калнін.*

**Заслаўскія**, Жаслаўскія, Яўнуцьевічы, княжацкі род у ВКЛ. Паходзілі ад вял. князя літоўскага *Яўнута*, які ў 1345 скінуты братамі Альгердам і Кейстутам, атрымаў ад іх г. *Заслаўе*. Сынамі Яўнута былі Міхаіл (?—1399) і Сямён (у 1390 трапіў у палон да крыжакоў). Князі З., як усе Гедзімінавічы, мелі права на герб «Пагоня», але карысталіся ўласным гербам з выяваю льва. Сыны Міхаіла Юрый і Андрэй памерлі ў 1-й пал. 15 ст., валодалі апрача Заслаўя вял. вотчынамі на У Смаленскай зямлі (Апакаў, Недаходаў і інш.). Найб. вядомыя:

Іван Юр'евіч (?—1499?), сын Юрыя Міхайлавіча. Намеснік менскі (1468), віцебскі (каля 1484). Страціў смаленскія вотчыны ў выніку іх захопу Маскоўскім княствам. Меў сыноў Міхаіла, Багдана, Фёдара, дачок Софію (?—1507) і Аксінню (?—1537).

Міхаіл Іванавіч (каля 1460—1529), сын Івана Юр'евіча. Намеснік віцебскі (1492—95). У 1499 атрымаў ад вял. князя Аляксандра дазвол на шлюб з Ульянай, дачкой кн. І.Ю.Мсціслаўскага. Адначасова атрымаў у вотчыну частку Мсціслаўскага княства з Радамлем, Пацкавам і Мглінам. З таго часу тытулаваўся звычайна князем Мсціслаўскім. Уваходзіў у склад Рады ВКЛ і меў фактычны статус удзельнага князя. Атрымаў ад вял. князя Аляксандра ў пажыццёвае карыстанне маёнткі Маладзечна, Ажунічы, Спягла і Сырмеж у Ашменскім пав., Лобча ў Прапойскай вол. Пазней усе яны, а таксама Цяцерын у Аршанскім пав. былі падараваны ў вотчыну. Другім шлюбам каля 1507 ажаніўся з Васілісай-Ульянай Іванаўнай Гальшанскай. Пасля ад'езду старэйшага сына Фёдара ў Маскву і смерці малодшага, Васіля, у 1526 падараваў Мсціслаўскае княства вял. князю Жыгімонту І Старому, аднак захаваў права пажыццёва карыстацца даходамі з яго. З астатніх сваіх маёнткаў у 1529 ставіў у войска 32 коннікі. Гэтыя маёнткі затым былі падзелены паміж яго дочкамі Марыяй (каля 1510—63), Настассяй (каля 1520—80) і Багданай (каля 1525—65). Ад яго сына Фёдара Міхайлавіча (каля 1500—40) пайшоў род князёў Мсціслаўскіх у Расіі.

Багдан Іванавіч (каля 1465—1530), сын Івана Юр'евіча. Намеснік менскі (1489). Быў жанаты з Аграфенай, дачкой Івана Хадкевіча. Ад вял. князя Аляксандра атрымаў маёнткі Прылукі і Лошыца пад Менскам. У 1529 ставіў у войска 14 коннікаў. Меў дачок Марыю (каля 1445—1559), Ганну (каля 1500—42), Федку (каля 1510—60) і Тамілу (каля 1515—60).

Фёдар Іванавіч (каля 1470—1539?), сын Івана Юр'евіча. Намеснік аршанскі і аболецкі (1501). Адзіны з братоў валодаў радавой вотчынай — Заслаўем. У 1508 атрымаў ад вял. князя Жыгімонта І Старога маёнтак Межава ў Аршанскім пав., валодаў таксама Вязаўцом у Слонімскім пав. У 1529 ставіў у войска 31 конніка. Быў жанаты з Софіяй, дачкой кн. Андрэя Сангушкі-Кашырскага. Яго адзіная дачка Ганна (каля 1500—каля 1567) была жонкай Яна Юр'евіча Глябовіча, потым Яраша Сяняўскага. Бацькоўскія маёнткі завяшчала дзецям ад шлюбу з Глябовічам.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 265—273, 587—594.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Заслаўскія**, Жаслаўскія, княжацкі род герба «Астрог» зменены (страла над паўкальцом заменена на крыж), адгалінаванне князёў *Астрожскіх*. Малодшы брат князя Івана Васілевіча Астрожскага Юрый (каля 1430—каля 1500) пры падзеле бацькоўскіх вотчын атрымаў Заслаўе на Валыні (цяпер г. Ізяслаў Хмяльніцкай вобл., Украіна). Яго нашчадкі тытулаваліся князямі З. Асноўная іх дзейнасць была звязана з Украінай. Да Беларусі мелі дачыненне ў 2-й пал. 16 ст. дзеці Кузьмы Іванавіча (каля 1500—62), які быў жанаты з княгіняй Настассяй Юр'еўнай Гальшанскай-Дубровіцкай. Дзеці ад гэтага шлюбу ў 1556 пры падзеле спадчыны згаслага роду князёў Гальшанскіх атрымалі палову маёнткаў Глуск у Навагародскім і Рычаў у Пінскім пав. З іх Януш Кузьміч (каля 1530—67) пакінуў сына Януша (каля 1550—1629). Яго сястра Ганна Кузьмінічна (?—1582) была жонкай князя Івана Фёдаравіча Чартарыйскага. У 1581 яна адкупіла ў свайго пляменніка яго долю ў названых маёнтках, якія потым адышлі да князёў Чартарыйскіх. Нашчадкі Януша Янушавіча існавалі да 1677.

*Літ.*: Wolff J. Kniaziowie litewsko-ruscy od końca czternastego wieku. Warszawa, 1895. S. 594—605.

*Вячаслаў Насевіч.*

**застава**, 1) заклад, маёмаснае забеспячэнне атрыманай пазыкі ў ВКЛ, звязанае з перадачай даўжніком маёмасці (найчасцей маёнтка) крэдытору з правам далейшага выкупу. З. маёнткаў і зямель, у т.л. дзяржаўных, была крыніцай атрымання грошай. Пры З. да крэдытора звычайна пераходзілі ўсе правы на землеўладанне і перададзеных яму разам з маёмасцю людзей. Свае правы крэдытор мог перадаць іншай асобе або нават стаць уладальнікам маёмасці. Вядомы і інш. віды закладу нерухомай маёмасці з мэтай забеспячэння атрыманай пазыкі, т.зв. іпатэка. Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1588* на З. не распаўсюджвалася іскавая даўнасць. Кожны заклададавец пасля выплаты пазыкі меў права вярнуць свой маёнтак. Калі закладатрымальнік не прымаў пазыку з надыходам указанага ў дагаворы тэрміну плацяжу, заклададавец меў права звярнуцца ў суд і пакласці грошы ў судзе, пасля чаго суд абавязаны быў увесці заклададаўца ва ўладанне яго маёнткам. Заклададавец траціў маёнтак, не выплаціўшы пазыку ў тэрмін, калі такая ўмова была абгаворана ў пагадненні пра З. Калі пры карыстанні закладзеным маёнткам (зямлёю) закладатрымальнік прычыніў каму-небудзь страты, пацярпелы мог спагнаць кампенсацыю з уласніка маёнтка, які ў парадку рэгрэснага іску меў права спагнаць страты з закладатрымальніка. Рухомая маёмасць (рэчы) перадавалася ў З. без пісьмовага сведчання службовымі асобамі. Заклададавец, які не выкупіў рэч у вызначаны тэрмін, траціў на яе правы. Калі рэч была страчана разам з рэчамі закладатрымальніка, то ўладальнік нічога не мог спагнаць за яе. У выпадку страты толькі рэчаў заклададаўца закладатрымальнік пасля вяртання яму пазыкі абавязаны быў вярнуць раўназначную рэч або заплаціць яе кошт. У заканадаўстве ВКЛ гаворыцца таксама пра «даные и прошлые заставы» — З., здзейсненыя паводле Статута ВКЛ 1588, пасля прыняцця Статута Вялікага княства Літоўскага 1529 і заяўленыя ў суд да выдання Статута ВКЛ 1588. Такія З. падлягалі судоваму разгляду. Ісцец павінен быў прывесці належны пісьмовы доказ закладу. Калі ж закладатрымальнік таксама прыводзіў належны пісьмовы доказ таго, што ён на законных падставах здаўна і пасля заканчэння тэрміну іскавай даўнасці трымае маёнтак, то ён без

прынясення прысягі заставаўся ўладальнікам маёнтка. Прэтэнзіі паісках аб такіх даўніх З., не прад'яўленыя пасля прыняцця Статута ВКЛ 1588 на працягу 10 гадоў, не прымаліся. Выключэнне складалі прэтэнзіі на карысць непаўналетніх дзяцей. Старэйшы брат па дасягненні ім паўналецця павінен быў на працягу 10 гадоў прад'явіць іск да закладатрымальніка, інакш траціў на яго права. Справы пра З., здзейсненыя пасля прыняцця Статута ВКЛ 1529 і не заяўленыя ў суд да прыняцця Статута ВКЛ 1588, па прычыне далёкай даўнасці не прымаліся да судовага разгляду.

2) Служба па ахове межаў ВКЛ. Напр., у грамаце вял. князя Жыгімонта І Полацкай зямлі гаворыцца: «А в заставу намъ бояръ и мешчанъ полоцких и посельских путниковъ не посылати».

*Таісія Доўнар.*

**засценак**, тып сельскага паселішча на Беларусі ў 16—20 ст. Узнік у сярэдзіне 16 ст. ў выніку правядзення *валочнай памеры*. Паводле *«Уставы на валокі» 1557* ворныя землі феад. маёнткаў падзяляліся на 3 часткі, кожная з якіх мела свае межы («сценкі»). Землі, што засталіся за гэтымі межамі, называліся З.; іх арандавалі дробная шляхта (адсюль назва засцянковая шляхта) і часткова заможныя сяляне. З. называлася і паселішча на гэтых землях. З. існавалі пры большасці сёлаў. Першапачаткова складаліся з асобных двароў, колькасць якіх павялічвалася з цягам часу. Асабліва многа З. было ў цэнтр. і зах. Беларусі. У Койданаўскім графстве ў 1811 было 50 З., у канцы 18—пач. 19 ст. З. складаліся тут з 12—18 і нават з 30 двароў. У 1866 у Мінскім пав. 245 З. з 1506 дварамі. Забудова З. была нерэгулярная, складалася з жылога дома і гасп. будынкаў. У 18—19 ст. у многіх З. з'явіліся лазні і бровары, у некаторых конныя млыны. Называліся З. звычайна па прозвішчах арандатараў (Акінчыцы, Галавачы, Гарбузы, Зуі і інш.). Праіснавалі ў БССР да 1938, у Зах. Беларусі да 1939.

*Літ.*: Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 1992. С. 100—101.

*Валерый Шаблюк.*

**засцерагальнае ўзбраенне**, частка агульнага ўзбраення воінаў, баявое пакрыццё, прызначанае для аховы розных частак цела ад наступальнай зброі праціўніка. Прымітыўныя ўзоры З.ў. (*шчыты*, скураныя паясы і шапкі) вядомы з глыбокай старажытнасці. Больш дасканалае З.ў. з'явілася з вылучэннем у асобную сац. групу прафесійных воінаў-дружыннікаў. У раннім сярэдневякоўі З.ў. бел. дружыннікаў складалася са шчыта міндалепадобнай ці круглай формы, кольчатага (*кальчуга*) ці набранага з пласцін *панцыра*, а таксама сфераканічнага або купалападобнага *шлема*, да якога маглі мацавацца кальчужная барміца і лічына, што засцерагалі карак, шыю і твар воіна. Па меры ўдасканалення наступальнай зброі павялічвалася трываласць баявога ўбору і змяншалася плошча непакрытага ім цела. На мяжы 14—15 ст. ва ўжытак увайшлі суцэльнакаваныя *даспехі*, якія закрывалі воіна з ног да галавы. У камплекце з імі ўжываліся шлемы больш дасканалых форм — капаліны, салады ці прылбіцы. У 16 ст. ў асобных выпадках практыкавалася пакрыццё З.ў. баявых коней. Акрамя суцэльнакаваных даспехаў у 15—16 ст. выкарыстоўваліся традыцыйныя кольчатыя і пласціністыя панцыры, а таксама мяккія віды З.ў. — цегіляі, ватаваныя зіпуны і кафтаны. Шчыты таго часу надзвычай разнастайных тыпаў і форм — трохвугольныя, прамавугольныя, круглыя, т.зв. павезы, складана-прафіляваныя шчыты-тарчы і г.д. З сярэдзіны 16 ст. ў сувязі з пашырэннем агнястрэльнай зброі поўныя рыцарскія даспехі паступова страцілі сваё значэнне. Замест іх прыйшоў паўдаспех у камплекце з аблегчанымі тыпамі шлемаў — штурмгабам, капалінам і шышаком. Працягваў ужывацца кольчаты панцыр з лёгкім шлемам-місюркай. У 18 ст. значэнне З.ў. рэзка ўпала, аднак у выглядзе кірасы і каскі яно выкарыстоўваецца некаторымі аддзеламі цяжкай кавалерыі (кірасіры) да пач. 20 ст.

*Юрась Бохан.*



Да арт. **Засцерагальнае ўзбраенне**. Нагаловак конскага даспеха. З камплекта М.Радзівіла Чорнага. Каля 1550.



Да арт. **Засцерагальнае ўзбраенне**. Тарчка кап'я з камплекта М.Радзівіла Чорнага. Каля 1550.



Да арт. **Засцерагальнае ўзбраенне**. Даспех «Пярун вайны» з радзівілаўскай збраёўні. 17 ст.

**Заянчкоўскі** (Zajączkowski) Станіслаў Францішак (29.1.1890, г. Львоў—10.10.1977), польскі гісторык. Д-р габілітаваны (1930), праф. звычайны (1937). Скончыў Львоўскі

ун-т. У 1921—32 працаваў у львоўскіх архівах. З 1932 выкладаў у Віленскім ун-це. У 1940—45 працаваў у Дзярж. архіве Вільнюса. З 1945 выкладаў у Лодзінскім ун-це. Працы па гісторыі ВКЛ 13—14 ст., барацьбе ВКЛ і Польшчы з крыжакамі.

*Тв.*: Studya nad dziejami Żmudzi wieku XIII. Lwów, 1925; Przymierze polsko-litewskie 1325 r. // Kwartalnik historyczny. 1926. Z. 4; Przyczynki do hipotezy o pochodzeniu dynastji Giedymina ze Żmudzi // Ateneum Wileńskie. 1927. Z. 13; W sprawie zajęcia Podlasia przez Giedymina // Там жа. 1929. Z. 1—2; Polska a zakon krzyżacki w ostatnich latach panowania Władysława Łokietka. Kraków, 1929; Dzieje Litwy pogańskiej do 1386 r. Lwów, 1930; Wołyń pod panowaniem Litwy // Rocznik Wołyński. Równe, 1931. T. 2; Litewski ruch naukowy w zakresie historyi: Próba charakterystyki // Kwartalnik historyczny. 1935. Z. 3; Dzieje zakonu krzyżackiego. Łódź, 1946; Problem Jaćwieży w historiografii // Zapiski towarzystwa naukowego w Toruniu. 1953. Z. 4.

*Літ.*: Rocznik Łódzki. Łódź, 1961; 1979 (змешчана бібліяграфія прац З.).

***Валерый Пазднякоў.***

**Збараж** (укр. З б а р а ж, цяпер горад, цэнтр Збаражскага р-на Цярнопальскай вобл., Украіна), горад у Крэменецкім пав. Валынскага ваяв., на р. Гнезна. Упершыню ўпамінаецца пад 1211 як горад Галіцка-Валынскага княства. З сярэдзіны 14 ст. ў складзе ВКЛ. З сярэдзіны 15 ст. уладанне кн. Васіля Несвіцкага, адна галіна роду якога назвалася *Збаражскімі*. У 15—17 ст. падвяргаўся нападам татараў і турак (у 1474, 1596, 1667 яны авалодвалі замкам). З 1569 у Польскім каралеўстве. У 1583 у З. 1420 ж., 284 дамы. У 1620-я г. ўзведзены новы замак. У 1600 пабудавана правасл. царква, у 1627—30 — кляштар бернардзінцаў. З 1636 уладанне Я.Вішнявецкага. У 1648 З. часова авалодалі казацкія атрады М.Крываноса. У чэрв.—жн. 1649 З. вытрымаў аблогу войск Б.Хмяльніцкага. У 17—18 ст. дзейнічала славяна-рус. школа, створаная Збаражскім брацтвам. У 1707, 1734 у горадзе размяшчаліся рас. войскі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Аўстрыі.

***Валерый Грынявецкі.***

**Збаражскія**, княжацкі род герба «Карыбут». Паходзілі ад кн. Васіля Несвіцкага (Карыбутавіча), які ў сярэдзіне 15 ст. валодаў *Збаражам* на Валыні (адсюль прозвішча). У 1463 яго сыны Васіль, Сямён і Солтан падзялілі бацькаву спадчыну. Васіль атрымаў Збараж і вакольныя сёлы, у 1474 ён загінуў у падпаленым крымскімі татарамі Збаражы. Ад яго сына Міхаіла пайшоў род *Вішнявецкіх*, ад сына Сямёна — далейшы род З., ад сына Фёдара — роды *Парыцкіх* і *Варанецкіх*. Вызнавалі праваслаўе, з канца 16 ст. — каталіцтва. Найб. вядомыя:



Да арт. **Збаражскія**. К.Збаражскі. Партрэт 1620-х г.

С я м ё н  В а с і л е в і ч, сын Васіля Васілевіча. Пры падзеле з братамі бацькавых уладанняў атрымаў Збараж.

А н д р э й  С я м ё н а в і ч (?—пасля 1528), сын Сямёна Васілевіча. Удзельнічаў у *Вішнявецкай бітве 1512* з татарамі. У 1528 ставіў у войска ВКЛ 14 коннікаў. Меў сыноў Мікалая, Стафана, Юрыя, Уладзіслава, Міхаіла.

М і к а л а й  А н д р э е в і ч (?—да 8.7.1574), сын Андрэя Сямёнавіча. У 1559 і 1563 спраўца Кіеўскага ваяв. З 1560 стараста крэменецкі. Падпісаў акт Люблінскай уніі 1569. Першым шлюбам жанаты з княжной Казекай, другім — з Ганнай, дачкой апошняга сербскага дэспата Іаана Стафанавіча Бранкавіча. Валодаў чвэрцю Збаража і інш.

Ю р ы й  А н д р э е в і ч (?—да 3.5.1580), сын Андрэя Сямёнавіча. Пасол на сойм 1573. Жонка Шчэнсная, дачка ваяводы віцебскага Ю.В.Насілоўскага, прынесла яму маёнткі Вязынь, Крайск і Жыцін у Менскім пав., Насілаў у Ашмянскім пав. Пасля жанаты з Б.М.Казінскай. Валодаў таксама часткай Збаража і інш. маёнткамі на Украіне.

У л а д з і с л а ў  А н д р э е в і ч (?—1581 або 1582), сын Андрэя Сямёнавіча. Валодаў маёнткам Валошышчы ў Крэменецкім пав., дзе ў 1557 атрымаў права залажыць горад. Пасол на соймы 1564 і 1569. З 1570 стараста (дзяржаўца) батоцкі, у 1573—74 спраўца Кіеўскага ваяв. Меў сыноў Стафана, Канстанціна, Пятра.

С т а ф а н  А н д р э е в і ч (?—1585), сын Андрэя Сямёнавіча. Каралеўскі дваранін, ваявода віцебскі ў 1555—64, троцкі кашталян ў 1564—66 і ваявода з 1566; дзяржаўца жосленскі з 1574, самілішскі, рудніцкі, дарсунішскі. У 1555—56 пасол у Маскву. Каля 1560 збудаваў замак і заснаваў горад у Суражы. Дзякуючы шлюбу з Г.Я.Забярэзінскай атрымаў маёнткі Боцькі, Дубна, Кнарыды, Міжрэчча, частку Забярэззя, Волму, Бакшты і інш. 2-я жонка, княгіня Н.М.Заслаўская, прынесла яму маёнткі Цяцерын, Пацкава, Кабыльнік. 3-я жонка — Д.Фірлей. Ад гаспадара атрымаў маёнткі Краснае Сяло, Гегужын, Жэймы. Валодаў часткай Збаража і інш. на Украіне.

Я н у ш  М і к а л а е в і ч (?—1598), сын Мікалая Андрэевіча. Ваявода брацлаўскі з 1576; стараста крэменецкі з 1574, пінскі ў 1581—90. Пасол на сойм 1573. У час *Інфлянцкай вайны 1558—82* вызначыўся ў Чашніцкай бітве 1567, пры ўзяцці Полацка ў 1579 і Вял. Лук у 1580, аблозе Пскова ў 1581. Неаднаразова адбіваў напады крымскіх татараў на ўкр. землі (найбуйнейшыя — у 1576 і 1594). Удзельнічаў у заключэнні *Ям-Запольскага перамір'я 1582*.

К р ы ш т о ф (1580—6.3.1627), сын Януша Мікалаевіча. Вучыўся ў Нідэрландах. У 1609 ваяваў пад Смаленскам. Канюшы каронны з 1610, стараста крэменецкі з 1608, баляслаўскі, вісліцкі і грубяшоўскі. Пасол у Турцыю ў 1621.

Е ж ы (?—30.7.1631), сын Януша Мікалаевіча. Вучыўся ў Нідэрландах. Каронны крайчы ў 1612—19, падчашы з 1619—20, кашталян кракаўскі з 1620; стараста пінскі з 1590, сокальскі з 1607, жарнавецкі з 1624, вісліцкі з 1628, дзяржаўца радагошчкі з 1603. Апошні з роду З.

*Літ.*: Б а у м г а р т е н Н.А. К родословию князей Глинских, Вишневецких, Сангушек, Чарторыйских и Збаражских: Дочери

последнего Сербского Деспота в Западной, Литовской Руси // Летопись Историко-родословного общества в Москве. М., 1908. Вып. 4; Я г о ж. Происхождение князей Вишневецких, Збаражских и Воронецких // Там жа. 1910. Вып. 4; D o b r o w o l s k a W. Młodość Jerzego i Krzysztofa Zbaraskich: Z ustępem o rodzie Zbaraskich i życiorysem Janusza Zbaraskiego, wojewody bracławskiego. Przemyśl, 1926; Я е ж. «Ozdoby» rodu Zbaraskich // Ateneum Wileńskie. 1928. Z. 15; R a w i t a - G a w r o ń s k i F. Książęta Nieświeccy, Zbarascy i Wiszniowieccy do końca XVI w. // Там жа. 1930. Z. 1—2.

*Валерый Пазднякоў.*

**збор**, гл. *Кальвінскі збор.*

**«Збор дзяржаўных і прыватных актаў»** [«Собрание государственных и частных актов, касающихся истории Литвы и соединенных с ней владений (от 1387 до 1710 г.)»], зборнік дакументаў па гісторыі ВКЛ. Выдадзены Віленскай археалагічнай камісіяй пад рэд. М.*Круповіча* (ч. 1, 1858). Змяшчае 54 дакументы, у т.л. прывілеі Ягайлы і Вітаўта каталіцкай царкве (1387—88), лісты рымскіх папаў Марціна V і Яўгена IV да Ягайлы, Вітаўта і каралевы Соф'і (1424—34), прывілеі вял. князёў Казіміра і Аляксандра феадалам на землі, прывілеі Жыгімонта I Старога Ф.Скарыне (1532), Жыгімонта II Аўгуста А.Ратундусу, ліст Ж.Кальвіна да віленскіх пратэстантаў, тастаменты дзярж. дзеячаў ВКЛ К.Зяновіча і В.Гасеўскага, інвентары Ляхавіцкага замка (1658), Смаленска і Смаленскага замка (1654), рэестр войска ВКЛ, якое абараняла Смаленск у 1654 ад рас. арміі, судовыя справы аб вядзьмарстве, дакументы пасольства Аўгуста II да Пятра I (1703—11) і інш. Большасць дакументаў надрукавана з арыгіналаў на лац., бел. і польскай мовах, забяспечана заўвагамі. Выданне зроблена на высокім археаграфічным узроўні і не страціла свайго навуковага значэння. Змест збору не адпавядаў русіфікатарскай і правасл. палітыцы рас. улад, таму выданне не працягвалася. Яно стала адной з падстаў для закрыцця Віленскай археал. камісіі і Віленскага музея старажытнасцей.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 56—59.

*Валерый Пазднякоў.*

**«Збор літоўскіх законаў з 1389 да 1529»** («Zbiór praw litewskich od roku 1389 do roku 1529»), зборнік юрыдычных актаў, якія асвятляюць заканадаўства, дзяржаўны і грамадскі лад ВКЛ канца 14—сярэдзіны 16 ст. Рыхтаваўся да друку ў 1830-я г. гісторыкамі І.М.*Даніловічам*, І.*Ляпевелем* і Т.*Дзялынскім*, але з-за паўстання 1830—31 выдадзены толькі ў 1841 у Познані Дзялынскім. Змяшчае агульназемскія і абласныя прывілеі вял. князёў, у т.л. прывілеі Ягайлы 1387, Казіміра 1447 (1457), Аляксандра 1492, Жыгімонта I Старога 1506, 1507, 1522, Віцебскай зямлі 1509, Гарадзельскі прывілей 1413, Судзебнік 1468 (з памылковым датаваннем 1492) і інш. Тэксты дакументаў надрукаваны з арыгіналаў, асобных спісаў, ранейшых публікацый і кніг-копій Метрыкі ВКЛ на мове арыгінала — лац. і бел. (лацінскім шрыфтам), некаторыя перакладзены на польск. мову. У кнізе ўпершыню надрукаваны *Статут Вялікага княства Літоўскага 1529*, на бел. мове (лацінскім шрыфтам) на падставе Дзялынскага і Свідзінскага спісаў з рознапытаннямі па Фірлейскім і Слуцкім спісах і на лацінскай мове паводле Пулаўскага спіса. Публікацыя забяспечана каментарыямі Даніловіча. У кнізе змешчаны таксама дакументы соймаў ВКЛ 1544—63; просьбы шляхты і адказы на іх вял. князёў на бел. (лацінскім шрыфтам) і польскай мовах. Змешчаны 12 табліц пячатак вял. князёў ВКЛ (Вітаўта, Свідрыгайлы, Ягайлы, Казіміра, Аляксандра, Жыгімонта I Старога, Жыгімонта II Аўгуста) і інш. асоб, а таксама адбіткі першых старонак Статута ВКЛ 1529 з Дзялынскага спіса і «Адказа» Жыгімонта I шляхце 1544.

*Літ.*: Л а з у т к а С., Г у д а в и ч ю с Э. Первый Литовский Статут. [Т.] 1, ч. 1. Вильнюс, 1983; С т а р о с т и н а И.П. Судебник Казимира 1468 г. // Древнейшие государства на территории СССР: Материалы и исслед., 1988—1989 гг. М., 1991.

*Валерый Пазднякоў.*

**«Збор старажытных грамат і актаў гарадоў: Вільні, Коўна, Трок»** («Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковна, Трок...»), зборнік дакументаў 14—18 ст. Выдадзены ў Вільні ў 1843. Складаецца з 2 частак — у ч. 1 змешчаны прывілеі Вільні, у ч. 2 — акты, што тычацца манастыроў, цэркваў і брацтваў. Матэрыялы адабраны з архіваў Трыбунала ВКЛ, цэркваў і манастыроў Вільні і Трок, скарыстаны архівы Віленскай і Ковенскай дум, Троцкай ратушы, павятовых судоў Браслаўскага і Расіенскага пав. У прадмове да зборніка сфармуляваны погляды на развіццё дачыненняў усходнеславянскіх народаў з літоўцамі.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 47—51.

**«Збор старажытных грамат і актаў гарадоў Мінскай губерні»** («Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии...»), зборнік дакументаў пач. 16 ст.—1748. Выдадзены ў 1848 у Мінску. Змяшчае дакументы пераважна з архіваў мінскіх манастыроў, а таксама з Бабруйска, Навагрудка, Пінска, Рэчыцы і Слуцка. Дакументы падабраны тэндэнцыйна, асвятляюць гісторыю правасл. царквы, некаторыя з іх і сац.-эканам. пытанні. Каштоўнасць зб-ка ў тым, што дакументы надрукаваны па арыгіналах, аднак выданне мае нізкі археагр. ўзровень.

*Літ.*: У л а щ и к Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 51—66.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Збораўскі дагавор 1649**, мірнае пагадненне паміж украінскім гетманам Б.Хмяльніцкім і каралём Польшчы Янам II Казімірам Вазай у час *антыфеадальнай вайны 1648—51*. Падпісаны 8(18).8.1649 у г. Збораў (цяпер Цярнопальская вобл. Украіны). Ваенныя дзеянні паміж укр. казакамі і польскім войскам аднавіліся вясной 1649. Каб засцерагчыся ад флангавага ўдару з боку ВКЛ, Хмяльніцкі накіраваў на Беларусь казацкае злучэнне на чале з палкоўнікам М.*Крычэўскім*, а гал. сілы павёў да Львова. Польскае войска, узначаленае каралём (25 тыс.), рухалася праз Валынь, а частку (15 тыс.) вёў Вішнявецкі праз Галіччыну. Войскі Хмяльніцкага і яго саюзніка крымскага хана Іслам-Гірэя (больш за 80 тыс. чал.) аблажылі Вішнявецкага ў Збаражы, на дапамогу якому паспяшаўся кароль. Хмяльніцкі і Іслам-Гірэй сустрэлі сілы Яна Казіміра недалёка ад Зборава і атакавалі пры пераправе цераз р. Стрына. 16.8.1649 казакі ўварваліся ва ўмацаваны польскі лагер, над каронным войскам навісла небяспека поўнага разгрому. Пасля сепаратных перагавораў з Янам Казімірам крымскі хан адвёў свае сілы і запатрабаваў ад Хмяльніцкага падпісаць мір з каралём. Падпісанае пагадненне вызначыла рэестр казацкага войска ў 40 тыс. і пакідала Хмяльніцкаму тэр. Кіеўскага, Чарнігаўскага і Брацлаўскага



ваяв. Урадавыя пасады ў іх межах маглі займаць толькі прадстаўнікі казацкай старшыны і правасл. шляхты. Палякам, езуітам і яўрэям знаходзіцца тут не дазвалялася. Усе ўдзельнікі вайны атрымлівалі амністыю. На разгляд бліжэйшага сойма Рэчы Паспалітай мусіла быць пастаўлена пытанне аб адмене *Берасцейскай уніі 1596* і вяртанні правасл. царкве яе страчанай маёмасці. Інтарэсы сялян былі цалкам праігнараваны пагадненнем, затое польскай шляхце дазвалялася вяртацца ў свае маёнткі. Аднак дагавор быў першай афіцыйнай фіксацыяй поспехаў казацкай вайны. У Варшаве лічылі яго занадта вял. уступкай мяцежнікам, і сойм не зацвердзіў пагаднення. У пач. 1651 ваен. дзеянні аднавіліся.

***Генадзь Сагановіч.***

**«Зборнік дакументаў, якія датычаць адміністрацыйнага ладу Паўночна-Заходняга краю пры імператрыцы Кацярыне II (1792—1796)»** [«Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края при императрице Екатерине II (1792—1796)»], зборнік дакументаў расійскіх улад, выдадзеных пры ажыццяўленні 2-га і 3-га падзелаў Рэчы Паспалітай. Выдадзены ў 1903 Віленскай археаграфічнай камісіяй. У 1-й ч. зборніка змешчаны ўказы Кацярыны II 1792—96, запазычаныя з «Поўнага збору законаў Расійскай імперыі» (52 дакументы); у 2-й — распараджэнні рас. ваен. улад, губернатараў, мясц. улад Беларусі і Літвы і інш. дакументы, запазычаныя з актавых кніг Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губ. 1793—96, акты з рукапіснага аддзялення Віленскай публічнай б-кі (206 дакументаў на рус. і польскай мовах). Матэрыялы зборніка асвятляюць мерапрыемствы рас. ўрада па ўвядзенні новага адм.-тэр. падзелу Беларусі і Літвы, па арганізацыі тут рас. органаў улады і суда, паліцыі, пошты, увядзенні рэкруцкай павіннасці, прывядзенні насельніцтва да прысягі, арганізацыі гандлю і новага грашовага абароту. Комплекс дакументаў асвятляе дзейнасць *Таргавіцкай канфедэрацыі*. У прадмове А.В.Турцэвіча ахарактарызаваны палітыка і арганізац. мерапрыемствы рас. улад па правядзенні падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэнні Беларусі і Літвы да Рас. імперыі. Змешчана карта падзелаў Рэчы Паспалітай, гербы гарадоў Мінскай губ. і інш. ілюстрацыі, паказальнікі імён, геагр. назваў і рэчаў.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Зборнік ліфляндскіх, эстляндскіх і курляндскіх грамат разам з рэгестамі»** («Liv-, Esth- und Kurländisches Urkundenduch nebst Regesten»), серыйнае выданне дакументальных крыніц па гісторыі Латвіі, Эстоніі, а таксама суседніх краін канца 11—пач. 16 ст. Складаецца з 2 частак, 15 тамоў [1-я частка — 12 тамоў (1853—1910), 2-я частка — 3 тамы (1900—14)]. Выходзіла паслядоўна ў Рэвелі (Таліне, т. 1—4), Рызе (т. 5—6), Рызе і Маскве (астатнія тамы). Рэдактар т. 1—6 — Ф.Г.фон Бунге, т. 7—9 — Г.Гільдэбранд, т. 10—11 — Ф.Шварц, т. 12 — Шварц і А.фон Бульмерынк, 2-й часткі — Л.Арбузаў. Матэрыялы размешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці. У выданні сабраны найбагацейшы корпус разнастайных паводле паходжання і зместу дакументаў на лац., ням., рус., бел. і інш. мовах з архіваў Рыгі, Кёнігсберга, Рэвеля, Стакгольма і інш. Асн. масу матэрыялаў складаюць дакументы службовых асоб і падданых Інфлянцкага ордэна, рыжскага і інш. арцыбіскупаў і біскупаў, гар. магістратаў Усх. Прыбалтыкі. Вял. група дакументаў — пасланні рымскіх пап, манархаў, замежных гарадоў і прыватных асоб. Сярод іх граматы вял. князёў ВКЛ, полацкія, віцебскія, смаленскія граматы. У кожным томе змешчаны паказальнікі і рэгесты-каментарыі да асобных дакументаў. У матэрыялах выдання шмат каштоўных звестак па гісторыі знешніх сувязей, паліт., гасп., сац. развіцця бел. зямель у эпоху сярэдневякоўя, гісторыі бел. мовы.

***Васіль Варонін.***

**«Зборнік матэрыялаў, што маюць дачыненне да гісторыі паноў-рады Вялікага княства Літоўскага»** («Сборник материалов, относящихся к истории панов-рады Великого княжества Литовского»), археаграфічнае выданне дакументаў, што асвятляюць гісторыю *Рады Вялікага княства Літоўскага* ў канцы 15—16 ст. Ажыццявіў І.А.*Маліноўскі* ў Томску ў 1901 (надрукаваны таксама ў выданні «Вести Императорского Томского университета», 1902, кн. 21). Большасць дакументаў узята з Метрыкі ВКЛ, некаторыя з Кіеўскага цэнтр. архіва стараж. актаў. Зборнік складаецца з 4 частак. У 1-й змешчаны прывілеі радным панам на ўрады (пасады) і маёнткі, узоры прысяг (78 дакументаў); у 2-й — лісты паноў-рады да вял. князя і наадварот, лісты Рады ВКЛ да Кароннай рады (87 дакументаў); у 3-й — выракі (прыгаворы) паноў-рады і рашэнні сумеснага суда вял. князя і рады (72 дакументы); у 4-й — дакументы рознага паходжання, што асвятляюць становішча вышэйшай праслойкі феадалаў ВКЛ (выракі, прывілеі на землі, гасп. лісты вял. князя, скаргі падданых і інш., 51 дакумент). У дадатку змешчана 39 дакументаў. Усяго надрукавана 327 дакументаў за 1486—1576 (большасць — ад 1510-х г. і да 1569) у асноўным на бел. мове (некалькі на польскай і лац. мовах). Пры публікацыі захаваны скарачэнні слоў, арыгінальныя загалоўкі дакументаў, некат. стараж. літары заменены на новыя. Некат. дакументы надрукаваны ў выглядзе рэгестаў (толькі загаловак дакумента). Зборнік забяспечаны падрабязнымі паказальнікамі асабовых імён, геагр. назваў, урадаў і рэчаў. У 1912 выйшаў працяг выдання: «Зборнік матэрыялаў, што маюць дачыненне да гісторыі паноў-рады Вялікага Княства Польскага. Дадатак», дзе змешчана 90 дакументаў 1496—1581: прывілеі і лісты вял. князёў, судовыя справы, выракі, скаргі і інш. Зборнік мае вял. значэнне для даследавання сац.-эканам. і паліт. гісторыі ВКЛ.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 244—246.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Зборнік Муханава»** («Сборник Муханова»), выданне крыніц па гісторыі ВКЛ і Расіі канца 14—сярэдзіны 18 ст. Ажыццявіў П.А.*Муханаў* у Маскве ў 1836 і Пецярбургу ў 1866 (2-е выданне — экземпляры 1-га выдання, пераплеценыя з дадаткова надрукаванымі матэрыяламі). Усяго змешчана 350 дакументаў разнастайнага паходжання. Значная іх частка ўзята з копій Метрыкі ВКЛ лацінскім шрыфтам, што знаходзілася ў Варшаве, з прыватнай калекцыі складальніка, некат. перадрукаваны з папярэдніх выданняў. Сярод дакументаў мірныя дагаворы вял. князёў Вітаўта з цвярскім князем Барысам Аляксандравічам 1393, Казіміра з Псковам і Ноўгарадам 1440, з маскоўскім князем Васілём Васілевічам 1449, дыпламат. перапіска ВКЛ 16—17 ст., прывілеі на магдэбургскае права Полацку 1498, Менску 1499, Кіеву 1544, комплексы прывілеяў Вільні і Кіеву 14—17 ст., прывілеі Віцебскай зямлі 1503 і Смаленскай зямлі 1505, летапісны ўрывак пра шлюб вял. князя Жыгімонта Аўгуста з Барбарай Радзівіл, дакументы часоў



Інфлянцкай вайны 1558—82, граматы Лжэдзмітрыяў I і II, лісты Я.К.Хадкевіча, дыярыуш Ц.П.Бжастоўскага пра заключэнне Віленскага перамір'я 1656. Дакументы зборніка на бел. і рус. мовах, польска- і лацінскамоўныя надрукаваны ў перакладзе на рус. мову. Некат. дакументы забяспечаны археаграфічнымі заўвагамі, дзе ёсць звесткі пра іх знешні выгляд, месца захоўвання (рэдка), тлумачэнне асабовых імён і геагр. назваў, храналагічныя і гіст. каментарыі. Змешчаны імянны і геагр. паказальнікі, факсіміле фрагментаў дакументаў, табліцы вадзяных знакаў. Храналагічны прынцып размяшчэння дакументаў не вытрыманы, ёсць недакладнасці ў перадачы тэкстаў. Нягледзячы на адносна невысокі археаграфічны ўзровень, зборнік захоўвае навук. значэнне.

*Літ.*: Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 40—44.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Зборнікі Рускага гістарычнага таварыства»** («Сборники Русского исторического общества»), зборнікі дакументаў па гісторыі Расіі 15—19 ст. Выдадзены ў Санкт-Пецярбургу і Маскве ў 1867—1916 у 148 тамах. Пяць тамоў маюць унутраную нумарацыю (выпускі) і назву «Помнікі дыпламатычных дачыненняў Маскоўскай дзяржавы з Польска-Літоўскай дзяржавай». У т. 35 (вып. 1. СПб., 1882) змешчаны дакументы за 1487—1533 па пытаннях, звязаных з ад'ездам з ВКЛ князёў Варатынскіх, Адоеўскага, Бельскага, узаемнымі скаргамі бакоў. У т. 59 (вып. 2. СПб., 1887) дакументы за 1534—59 па перагаворах аб перамір'і паміж ВКЛ і Рас. дзяржавай. У т. 71 (вып. 3. СПб., 1892) дакументы за 1560—71 па Інфлянцкай вайне 1558—82, заняцці Іванам IV Полацка і інш. Т. 137 і 142 (вып. 4. М., 1912; вып. 5. М., 1913) выдадзены ў сувязі з 300-годдзем вызвалення Масквы ад літ.-польскіх войск і выбраннем на рас. прастол Міхаіла Раманава, уключаючы дакументы за 1598—1608, 1609—15: трактаты паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй, нататкі рас. паслоў пра насельніцтва Беларусі, сведчанні пра захаванне дакументаў па гісторыі ВКЛ у архівах Масквы. Сярод дакументаў т. 16 (СПб., 1875) — матэрыялы літоўскага ген.-губернатара М.В.Рапніна (канец 18 ст.).

*Літ.*: Императорское Русское историческое общество, 1866—1916. Пг., 1916; Улащик Н.Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода. М., 1973. С. 220—225.

***Міхась Шумейка.***

**зброя**, сукупнасць сродкаў нападзення і абароны, якая выкарыстоўваецца пераважна ва ўзброенай барацьбе для знішчэння жывой сілы праціўніка, яго тэхнікі і збудаванняў. З'явілася ў часы палеаліту як універсальная прылада для палявання, самаахновы (кап'ё, дубіна), часам і для працы (каменнае рубіла, нож). Ужо ў найстаражытнейшую эпоху існавала ўдарная і кідальная зброя. У часы позняга палеаліту з'явіліся *лук* і стрэлы, у неаліце — *булава* і *кінжал*. Вялікі ўплыў на развіццё З. зрабіла выкарыстанне металу, вынікам чаго было ўзнікненне спецыялізаванай ваеннай З. Удасканаленне З. як вузкаўтылітарнай вайсковай прылады прывяло да вырабу *засцерагальнага ўзбраення*, паляпшэнне ахоўных якасцей якога дало магчымасць удасканальваць наступальнае ўзбраенне, што выявілася ў эвалюцыі традыцыйных і з'яўленні новых відаў З. У сярэдневяковў




**Зброя** і ваенны рыштунак са збраёўні князёў Радзівілаў у Нясвіжы:
1 — гусарскі шышак канца 16 — 17 ст.; 2 — кірасірскі шлем (закрыты штурмак) 1-й пал. 17 ст.; 3 — салада для турніраў «Rennen» (на вострых коп'ях) 16 ст.; 4 — кінжалы 16 ст.; 5 — парадная алебарда 17 ст.; 6 — арбалетныя балты 16 ст.; 7 — шчыты-рондашы 16 — 17 ст.; 8 — пісталеты 16 ст.; 9 — аркебузы 17 ст.; 10 — нагруднік кірасы 17 — 18 ст.




Да арт. **Зброя**.:
1 – мушкет з апорнай сошкай, 17 ст.;
2 – бамбарда з ядрамі і шуфлікам для закладкі пораху, 15 ст.;
3 – серпанціна, 16 ст.

на землях Беларусі пашырыліся асадныя прыстасаванні, якія ўзніклі ў дзяржавах стараж. свету, механізаваны лук (*арбалет*), а з канца 14 ст. — агнястрэльная зброя, з'яўленне якой выклікала пераварот у вайсковай справе. Пасля гэтага рэзка падае значэнне халоднай З. і засцерагальнага ўзбраення.

***Юрась Бохан.***

**згоны**, г в а л т ы, адработачная феадальная павіннасць сялян, часткова і мяшчан у ВКЛ у 15—18 ст.; найбольш ранняя форма працоўнай павіннасці. З устанаўленнем у 16 ст. штотыднёвай *паншчыны* З. праводзіліся для тэрміновых с.-г. работ звыш цягла. Падзяляліся на вялікія (зганялі ўсіх працаздольных) і малыя (1—2 работнікі з гаспадаркі на ворыва і сяўбу), на конныя і пешыя. У адрозненне ад паншчыны на З. прымушаліся працаздольныя з кожнай сям'і, нават *кутнікі*, якія не мелі зямлі, двара. Колькасць З. залежала ад плошчы панскай раллі і патрэб у дадатковай рабочай сіле, з часам колькасць іх павялічвалася. Напр., ва ўладаннях Клецка ў 1714 праводзіліся 6 малых і 4 вялікія З., а ў 1791 — 12 ці 13 вялікіх. У 2-й пал. 18 ст. найчасцей праводзілася 12 З. у год. У залежнасці ад відаў работ называліся шарваркі, талокі, работы з разавым пачастункам — абжынкі. У балансе рабочай сілы фальварковай гаспадаркі З. мелі значную ўдзельную вагу.

*Літ.*: Л е о н т о в и ч Ф.И. Крестьянский двор в Литовско-Русском государстве. Вып. 1—3. СПб., 1897—98; З а б е л а Т. Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII сталецьця // Зап. аддзелу гуманітарных навук Інбелкульта. Мн., 1928. Кн. 3; Л о й к а П.А. Прыватнаўласніцкія сяляне Беларусі: Эвалюцыя феадальнай рэнты ў другой палове XVI—XVIII ст. Мн., 1991.

***Павел Казлоўскі.***

**здольнікі**, гл. *Дольнікі*.

**земская даўнасць**, у ВКЛ вызначаны законам тэрмін, на працягу якога было магчыма аднаўленне парушанага права. Сканчэнне гэтага тэрміну вяло да пэўных юрыдычных вынікаў, у т.л. да страты права на выкананне рашэння або прыгавору, а таксама права на іск. Паводле *Статута Вялікага княства Літоўскага 1529* З.д. складала 10 гадоў. Калі на працягу гэтага тэрміну права на маёмасць, што была ў карыстанні пэўнай асобы, не было аспрэчана інш. асобамі, маёмасць станавілася ўласнасцю таго, хто ёю карыстаўся, а прэтэнзіі на яе трацілі сілу. Даўнасць не спынялася, калі зацікаўленая асоба не магла прад'явіць свае прэтэнзіі ў сувязі са знаходжаннем яе на дзярж. службе па-за межамі краіны, з прычыны вайны, а таксама ў сувязі з непаўналеццем. З.д. не пашыралася на *заставу*, заклад. Феадалы выкарыстоўвалі З.д. і для пошуку беглых сялян, якія пражылі ў маёнтках феадалаў больш за 10 гадоў, хоць Статут ВКЛ 1529 не прадугледжваў такіх мер у адносінах да людзей пахожых. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566* замацаваў бяспраўнае становішча сялян: вызначыў 10-гадовы тэрмін на адшуканне ў гарадах беглых сялян (*айчызных людзей, сялян-слуг, чэлядзі нявольнай*). Сяляне-слугі пасля 10-гадовага знаходжання ў гарадах маглі заставацца там, а чэлядзь нявольную вярталі ўладальніку і пасля тэрміну З.д., нават калі яна пераходзіла ў саслоўе мяшчан, набывала нерухомую маёмасць. Гэта норма была ўведзена па патрабаванні шляхты, якая дамагалася, каб буйныя землеўладальнікі і вял. князь не пераманьвалі іх сялян. *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588* пацвердзіў тэрмін З.д. ў 10 гадоў. Людзі пахожыя маглі пайсці ад феадала толькі ў тым выпадку, калі ён выдаваў ім спецыяльны ліст на права адыходу. Вольны селянін, які на працягу 10 гадоў жыў у маёнтку пана і своечасова не адышоў ад яго ці не разлічыўся з ім («засядзеў даўнасць»), ператвараўся ў прыгоннага. Тэрмін З.д. павялічваўся да 20 гадоў для пошуку беглых айчызных сялян, а для чэлядзі айчызнай і палонных даўнасць не абмяжоўвалася.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**земскі суд**, павятовы шляхецкі суд у ВКЛ у 16—18 ст. Разглядаў крымінальныя і грамадзянскія справы, выконваў натарыяльныя акты, запісваў скаргі на незаконныя дзеянні службовых асоб павета. Выбіраўся павятовай шляхтай з мясц. шляхціцаў (хрысціян), якія ведалі права, мелі маёнткі. Сесіі З.с. збіраліся 3 разы на год. Судаводства вялося на падставе Бельскага прывілея 1564 і Статутаў ВКЛ 1566 і 1588, да сярэдзіны 17 ст. на бел., потым на польскай мовах. На Беларусі і ў Літве дзейнічаў да 1831.

***Язэп Юхо.***

**Зізаній** (Тустаноўскі) Лаўрэнцій (1550—60-я г.—каля 1634), педагог, перакладчык, царкоўны дзеяч. Брат С.*Зізанія*. Паводле адных звестак паходзіў з дробнамаянтковай шляхты Троцкага ваяв., паводле другіх — з мяст. Тустынь на Валыні. Адукацыю атрымаў у Астрожскай школе. Працаваў выкладчыкам царкоўнаслав. і грэчаскай моў у Львоўскай (да 1592), Берасцейскай (1592—95), Віленскай (1595—97) правасл. брацкіх школах, хатнім настаўнікам у крычаўскага старасты Б.Саламярэцкага ў Баркулабаве на Магілёўшчыне (1597—1600),




Л.**Зізаній**. Граматыка славянская. Вільня, 1596. Тытульны ліст.

князёў А.Астрожскага (1600—03) і Я.Карэцкага ў г. Корац на Валыні (1603—18), дзе адначасова быў святаром у царкве. У 1596 з Віленскай брацкай друкарні выйшлі вучэбныя кнігі З., у якіх друкары выкарысталі клішэ з выданняў Ф.Скарыны: «Азбука» («Наука ку читаню и розумеию писма словенскаго») і «Граматіка словенска съвершеннаго искуства осми частій слова». У «Азбуцы» З. (адной з першых на Беларусі і Украіне), змешчаны «Лексис» — тлумачальны слоўнік, які аблягчаў разуменне старраслав. мовы, памагаў пашыраць веды па гісторыі, геаграфіі, прыродазнаўстве, набліжаў навучанне да жывой размоўнай бел. мовы. У 1619 запрошаны ў Кіева-Пячэрскую лаўру. Працаваў настаўнікам у Кіеўскай брацкай школе, быў перакладчыкам з грэчаскай мовы і рэдактарам выданняў вучонага гуртка пры лаўры.



У 1626 прыехаў у Маскву і прывёз рукапіс кнігі «Катехізис». Па даручэнні патрыярха Філарэта адбылося абмеркаванне кнігі маскоўскім артадаксальным духавенствам і свецкімі асобамі, якія ўбачылі ў ёй шмат ерэтычных думак. «Катехізис» у перапрацаваным выглядзе выдадзены ў Маскве ў 1627, перавыдаваўся стараверамі ў Гародні (1783, 1787, 1788). У 1627 вярнуўся ў Кіеў, дзе разам са слуцкім пратапопам А.Мужылоўскім павінен быў разгледзець кнігу М.Сматрыцкага «Апалогія». На Кіеўскім саборы 1628 З. выклаў супраць аўтара кнігі 105 пунктаў абвінавачання. Як духоўная асоба прамаўляў свае казанні, якія сведчаць пра добрае веданне страж. гісторыі і філасофіі. Заслуга З. ў стварэнні навукова-педагагічнай літаратуры, што адкрывала шлях да свецкай адукацыі. Асабліваe значэнне мела яго творчасць, у якой пашыраліся гуманістычныя погляды на шэраг з'яў у прыродзе і быў новы падыход да вывучэння праблем мовы ў брацкіх школах Беларусі і Украіны.

*Тв.*: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии: Избр. произв. XVI—нач. XIX в. Мн., 1962. С. 138—143; Лексис Лаврентія Зизанія. Синоніма славенороссая. Київ, 1964; Грамматики Лаврентия Зизания и Мелетия Смотрицкого / Сост. Е.А.Кузьминова. М., 2000.

*Літ.*: Алексютович Н.А. Культурно-просветительная деятельность братьев Зизаниев // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Подокшин С. Рационалистические и гуманистические идеи во взглядах Стефана и Лаврентия Зизаниев // Вопросы философских наук. Мн., 1965; Ботвинник М. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973.

***Марат Батвіннік.***

**Зізаній** (Тустаноўскі) Стафан (?—1600), педагог, пісьменнік-паленіст, царкоўны прапаведнік. Брат Л.*Зізанія*. Скончыў Астрожскую школу на Валыні. Выкладаў царкоўнаслав. і грэчаскую мовы ў Львоўскай (з 1586, з 1592 рэктар) і Віленскай (1593—99) брацкіх школах. Быў высокаадукаваным чалавекам, дасканала ведаў рыторыку, логіку, гамілетыку. Яго казанні былі накіраваны супраць уніятаў, езуітаў і вышэйшага правасл. духавенства. У 1595 у брацкай друкарні ў Вільні выдаў «Катехізис» на бел. і польск. мовах (не збярогся), які на правасл. саборы ў Навагародку (1596) асуджаны як ерэтычны. З. пазбаўлены духоўнага сану і адлучаны ад царквы, апраўданы Берасцейскім царк. саборам 1596. Аўтар рэліг.-філас. твораў «Лист Іеремеи патріархи константинопольскаго напоминалный» (1596), «Казанье святого Кирилла патріархъи ієрусалимъскаго...» (Вільня, 1596; перавыд. ў 1644 у Маскве пад назвай «Книга Кириллова», у Гародні стараверамі ў 1786, 1791 пад назвай «Кириллова книга»). У «Азбуцы» Л.Зізанія 1596 змешчаны твор З. «Изложеніе о православной въръ» — маленькі катэхізіс пытанняў і адказаў. Творы З., скіраваныя супраць каталіцкага духавенства і папы рымскага, варожа сустракаліся правасл. артадоксамі, таму што характэрным для светапогляду З. была ерэтычная ідэалогія сярэдневякоўя, цесная сувязь з нац.-вызв. барацьбой нар. мас ВКЛ. З. імкнуўся даць сваю інтэрпрэтацыю Біблії, прапаведаваў верацярпімасць, рацыяналістычна падыходзіў да ацэнкі з'яў прыроды і навакольнага свету. У 1599 у выніку барацьбы з уніятамі З. вымушаны быў пайсці ў Троіцкі правасл. манастыр у Вільні, дзе прыняў імя Сільвестра, але ў хуткім часе ўцёк з горада. Пра далейшае жыццё З. дакументаў няма, ёсць толькі паведамленне, што ён быў забіты ў час паломніцтва. Хоць аб'ектыўна вучэнне З. было ератычнае, сам ён лічыў сябе праваслаўным і не меў намеру наносіць удар па асн. догматах гэтага веравызнання. Яго палемічныя творы, накіраваныя супраць каталіцкай і уніяцкай царквы, падрывалі аўтарытэт і правасл. царквы. Рацыяналістычныя і радыкальна-рэфармісцкія погляды З. адыгралі важную ролю ў развіцці гуманізму і асветы на Беларусі і Украіне.

*Літ.*: Алексютович Н.А. Культурно-просветительная деятельность братьев Зизаниев // Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Мн., 1962; Подокшин С.А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. (Вторая половина XVI—начало XVII в.). Мн., 1970; Ботвинник М. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973.

***Марат Батвіннік.***

**Зімнаўскі Успенскі манастыр**, Успенскі Святагорскі манастыр. Знаходзіцца ў с. Зімнае (цяпер у Валынскай вобл., Украіна). Помнік уяўляе сабой замкнуты сакральна-мілітарны архітэктурны комплекс канцэнтрычнай кампазіцыі. У плане мае форму няправільнага чатырохвугольніка. У склад манастыра ўваходзяць Успенская і Троіцкая цэрквы, жыллёвы корпус з трапезнай, участкі абарончых сцен з 6 вежамі (4 вуглавыя вежы, вежа-брама, побач цыліндрычная). У канцы 19 ст. ўзведзены будынак манастырскай школы, дзе раней, відаць, знаходзілася заснаваная ў 1719 семінарыя. У 1682 манастыр перайшоў да уніятаў. Пад Успенскай царквой ёсць сутарэнні, у якіх былі пахаванні князёў Чартарыйскіх, Чацвярцінскіх, Вішнявецкіх. З Пд да манастыра прымыкае гасп. двор. Успенская царква пабудавана князямі Чартарыйскімі ў канцы 15—1-й пал. 16 ст. Агульным абрысам плана яна падобна на *Мураванкаўскую царкву*. Складаецца з асн. зальнага аб'ёму квадратнай формы, які заканчваецца адной вял. паўкруглай апсідай (пазней падзелена перагародкамі на тры). Першапачаткова над вуглавымі часткамі храма на квадратных п'едэсталах узвышаліся 4 цыліндрычныя купалы, якія ўяўлялі сабой завяршэнні вежаў, укампанаваных у вуглавыя часткі асн. аб'ёму (2 усх., відаць, разабраны ў 1724). Сцены храма ўмацаваны 2-прыступкавымі контрфорсамі. Падзялялі гал. фасад на 3 прасла. Вуглавыя контрфорсы былі своеасаблівым працягам тарцовых сцен. Узведзеныя пазней 4 апорныя слупы падзялілі інтэр'ер на 3 нефы, перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі (бакавыя нефы не мелі падпружных арак). У паўн. частцы апсіды, якая ўяўляе сабой 2-ярусную вежу, на 1-м паверсе была скарбніца, а на 2-м, відаць, архіў і б-ка. Уваход у бакавыя апсіды быў толькі знутры алтарнай часткі, якая з гал. нефам была злучана падпружнай аркай паўцыркульнай формы. Іканастас, відаць, быў невысокі, і таму цалкам не ізаляваў прастору асн. і алтарнай частак. Прыстасаванасць да абароны храма не дазваляла зрабіць вокны значных памераў, якія першапачаткова, напэўна, мелі стральчатую форму. Найбольш дэкаратыўна былі аформлены фасады храма, якія знаходзіліся ўнутры манастырскага двара. У 1724 Успенская царква істотна перабудавана. Былі ліквідаваны 2 цыліндрычныя купалы ўсх. часткі асн. аб'ёму, у завяршэнні гал. фасада зроблены атык. У час рэканструкцыі храма ў 1898—1900 часткова разабрана сярэдняе прасла сцяны гал. фасада і замест яго ўзведзена новае з акном прамавугольнай формы, што мае разгрузачную арку лучковай формы. У завяршэнні фасада быў зроблены атык у псеўдарускім стылі, які скла-


Зімнаўскі Успенскі манастыр.

даецца з 3 ярусаў какошнікаў і барабана цыліндрычнай формы, які вянчае цыбулепадобная галоўка. Аналагічныя, але меншых памераў какошнікі, размешчаны над вуглавымі часткамі гал. фасада. Абрамленне вокнаў таксама было ў псеўдарускім стылі. Перад гал. уваходам быў прытвор. Успенская царква ўключалася непасрэдна ў абарончыя муры манастыра.

Троіцкая царква ўзведзена ў 1465—75. З канца 18 ст. выкарыстоўвалася як капліца. У час рамонтаў 1860—68 і 1876 замест прамавугольных зроблены круглыя вокны барабана, зменена форма гал. ўвахода, дах накрыты бляхай. У 1950-я г. помнік адрамантаваны пасля пашкоджанняў, нанесеных у час 2-й сусв. вайны. Гэта аднанефавая, 2-купальная з паўкруглай апсідай пабудова. Агульныя памеры помніка ў даўжыню 10,4 м. Інтэр'ер перакрыты купалам з падвышэннем-скуф'ёй. Яны трымаюцца на самкнутых зрэзаных скляпеннях, якія перадаюць транспанаваную ў камені драўляную канструкцыю залому. Яе інтэр'ер з мяккімі контурамі арак, скляпенняў, ветразяў і купалаў як быццам вылеплены скульптарам. У архітэктуры помніка прасочваецца цесная сувязь з традыцыямі нар. дойлідства. Комплекс Святагорскага манастыра — своеасаблівы сімбіёз руска-візантыйскага, гатычнага, рэнесансавага і нар. дойлідства.

*Літ.*: Логвин Г.Н. По Україні. Стародавні містецькі пам'ятки. Київ, 1968; Лесик О.В. Замки та монастыри України. Львів,1993; Рожко В. Православні монастирі Волині. Луцьк, 1997; Jurczenko S. Niektóre osobliwości ewolucji przestrzeni wołyńskich cerkwi z XVI w. // Kwartalnik architektury i urbanistyki. 1998. Z. 4; Годованюк О.М. Святогірський (Успенський) монастир-фортеця (с. Зимне Волинського району Волинської області) // Пам'ятки архітектури та містобудування України. Київ, 2000.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**зліткі плацежныя**, зліткі з высакапробнага серабра спецыфічных устойлівых формаў, адзін з відаў грошай на ўсходнеславянскіх землях, што заняў дамінуючае становішча як галоўны плацежны сродак у 12—13 ст. У пазнейшых усх.-слав. пісьмовых крыніцах вядомы пад назвамі рубель, грыўня, палціна, у нямецкамоўных — марка, «штуке» серабра (stuke silbers). На тэр. Беларусі знойдзена каля 15 скарбаў ($^1/_5$ усіх вядомых), у якіх было каля 200 З.п., у 3 выпадках знойдзены разам з зах.-


**Зліткі плацежныя**: 1 — грыўня (рубель) чарнігаўскага тыпу, 2-я пал. 13 ст.; 2 — грыўня (рубель) кіеўскага тыпу, 11 — 13 ст.; 3 — грыўня (рубель) наўгародскага тыпу, 13 — 14 ст.; 4 — палова грыўні наўгародскага тыпу (палціна); 5 — грыўня (рубель) заходнярускага (літоўскага) тыпу, 14 — 15 ст.

еўрап. дэнарыямі 2-й трэці 11 ст., аднойчы былі клеймаваныя. Лакалізуюцца знаходкі З.п. на ПдУ Беларусі. З асн. тыпы З.п., што сустракаюцца на Беларусі, атрымалі ўмоўныя назвы па першых знаходках: кіеўскія (6-вугольны — ромб з усечанымі вострымі вугламі і прагнутымі ўсярэдзіну бакавінамі, маса 135—170 г; 11—13 ст.), наўгародскія (3-гранны брусок з выпуклым знізу рабром, у сячэнні нагадвае разрэз лодкі, верхняя частка пляскатая, маса 195—205 г.; 12—15 ст.), літоўскія (палачкападобны акруглы ў сячэнні злітак з пляскатай ніжняй часткай; маса 100—110 г; 12—15 ст.). Для кіеўскіх З.п. характэрна паверхня з наздраватымі выемкамі, сярод зліткаў вылучаюць звычайныя пляскатыя і больш цяжкія гарбатыя (190—216 г). На наўгародскіх часта трапляюцца надпісы-графіці. Наўгародскія ліўцы называлі зліткі ізроямі, гэты тэрмін ужыты ў лісце рыжскіх ратманаў да віцебскага кн. Міхаіла Канстанцінавіча (канец 13—пач. 14 ст.). Значная частка ранніх (12 ст.—1-я пал. 14 ст.) наўгародскіх зліткаў мае нарэзкі, нанесеныя да надпісаў, што, на думку І.Спаскага, пазначаюць страчаную ў час ачысткі сыравіны долю першапачатковую масы металу. Позняя наўгародскія З.п. (з 2-й пал. 14 ст.) маюць бачнае падоўжнае шво на стыку металу розных проб. На асобных экзэмплярах літоўскіх З.п. ёсць спецыфічныя засечкі-ўвагнутасці. У лісце 1401 Вітаўта да г. Рыгі ёсць звесткі пра зніжэнне пробы З.п. Існуе гіпотэза пра змяненне пробы літ. зліткаў у залежнасці ад паніжэння пробы *гроша пражскага*. Вядома аб існаванні залатых зліткаў.

*Літ.*: Ильин А.А. Топография кладов серебряных и золотых слитков. Пг., 1921; Karazija D. 1930 m. Vilniaus lobis. Vilnius, 1932; Бауер Н.П. Денежный счет в духовной новгородца Климента и денежное обращение в Северо-Западной Руси в XIII в. // Проблемы источниковедения. М.; Л., 1940. Сб. 3; Сотникова М.П. Эпиграфика серебряных платежных слитков Великого Новгорода XII—XV вв. // Тр. Гос. Эрмитажа. Л., 1961. Т. 4. Нумизматика, вып. 2; Duksa Z. Pinigai ir jų apyvarta // Lietuvių materialinė kultūra IX—XII amžiuje. Vilnius, 1981. T. 2; Грималаускайте Д., Синчук И.И. Об одном необычном литовском платежном слитке // Lietuvos archeologija. Vilnius, 2001. T. 21.

***Іван Сінчук.***

**злоты** (ад польск. złoty залаты), 1) адзінка грашовага ліку ў 30 грошаў, якая ўзнікла ў Польшчы ў канцы 15 ст. з-за стабільнага некаторы час курсу *чырвонага злотага* ў 30 грошаў. У канцы 16—пач. 17 ст. выцесніў *капу* ў ВКЛ і на ўкр. землях Кароны разам з манетамі літоўскай стапы. У 2-й пал. 18 ст. змяшчаў 30 медных грошаў або 4 грошы серабром. У польскамоўных крыніцах 16—18 ст. для пазначэння З. выкарыстоўваўся грашовы сімвал — літары «fl» ці «f», якія ўтварыліся ад лац. слова florenus — назвы манет



стандарту *фларэна*. 2) Вышэйшая адзінка 3-фракцыйнага грашовага ліку («рускі злоты» — грош — фракцыя гроша), якая ўжывалася на ўсх. землях Рэчы Паспалітай з 2-й трэці 18 ст. да 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) для ліку рас. манет, роўная 10 капейкам. 3) Адзінка грашовага ліку ў 10 капеек (30 грошаў), якая ўжывалася ў Рас. імперыі ў канцы 18—пач. 19 ст. на былых землях Рэчы Паспалітай пасля 2-га і 3-га падзелаў у 3-фракцыйным ліку рубель серабром — З. — грош для падліку часткі, меншай за рубель. Генетычна ўзыходзіць да 3-фракцыйнага ліку на цвёрдые грошы чырвоны З. — З. — грош. 4) *Тынф* 1663—66 Яна II Казіміра, які спачатку меў прымусовы курс 30 грошаў з дэклараваным пазначэннем наміналу лічбай «XXX», адкуль першапачатковая афіцыйная назва манеты «орт злотавы». 5) Манеты ў Рэчы Паспалітай з курсам абарачэння 30 грошаў. Паводле універсала 1761 адпаведна змяшчэнню металу ў 30 грошаў меддзю ацэньваліся прускі тынф 1752 і пазнейшыя. 6) Манета наміналам 4 сярэбраныя грошы, уведзеная ардынацыяй 1766. Пры пробе 541 праміле мела лігатурную масу 5,4 г, роўная $^1/_8$ талера (гл. *Карончык*). 7) Адзін з наміналаў *скарбовых білетаў* урада паўстанцаў 1794 (тыраж 11 920 экз.).

*Літ.*: Gumowski M. Podręcznik numizmatyki polskiej. Kraków, 1914; Kołobowa J.N. «Ruski złoty» w finansowej terminologii wschodnej Białorusi w drugiej połowie XVIII wieku // Prace i materiały Muzeum archeologicznego i etnograficznego w Łodzi. Seria numizmatyczna i konserwatorska. 1986. № 6; Kowalski M. Polski pieniądz papierowy, 1794—1994. Warszawa, 1994; Синчук И. Денежный счет в Великом княжестве Литовском и Речи Посполитой // Банковский вестник. 1994. № 10.

***Іван Сінчук.***

**Змееў** (Змеев) Сямён Данілавіч (?—23.6.1661), расійскі военачальнік, удзельнік *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. У 1647 стаў царскім стольнікам. У 1655 узначальваў палкі рэйтараў пад Смаленскам, у канцы 1655—пач. 1656 кіраваў пабудовай рачных стругаў для перавозу хлебных запасаў на Смаленшчыне. Улетку 1657 паводле загаду цара сфарміраваў у Смаленску асобнае войска для выгнання казакоў палкоўніка І.*Нячая* з Бел. Падняпроўя і сам камандаваў ім. У вер. 1657 падпісаў пагадненне з Нячаем, якое дазваляла ў пэўных месцах на Беларусі пакідаць казацкія залогі. У 1658—59 таварыш палкавога ваяводы князя Р.А.Казлоўскага ў Магілёве. Вёў барацьбу з шышамі (партызанамі). У вер. 1658 разам з Казлоўскім праводзіў 2-ю аперацыю па выгнанні казакоў з Усх. Беларусі і разгроме шышоў. У маі—снеж. 1659 з ваяводам князем І.І.*Лабанавым-Растоўскім* кіраваў аблогай і захопам Старога Быхава, у якім паланіў С.Выгоўскага — брата казацкага гетмана І.Я.*Выгоўскага*. Удзельнічаў у *Палонкаўскай бітве 1660*. Загінуў у бітве з войскамі П.Сапегі і С.Чарнецкага.

***Генадзь Сагановіч.***

**змова 1481**, змова князёў — нашчадкаў Уладзіміра Альгердавіча супраць вялікага князя Казіміра. Была выклікана аддаленнем гэтай старэйшай лініі Альгердавічаў (праваслаўных паводле веравызнання) ад паліт. улады ў ВКЛ і правоў на Вільню і Кіеў (у 1471 пасля смерці Сямёна Алелькавіча Кіеўскае княства пераўтворана ў ваяводства). З. арганізавана Міхаілам Алелькавічам, Фёдарам Іванавічам Бельскім (абодва — унукі Уладзіміра Альгердавіча), Іванам Юр'евічам Гальшанскім (праўнук Уладзіміра Альгердавіча па маці, Юльяне Алелькаўнай). Змоўшчыкі планавалі дэтранізаваць (магчыма, і забіць) Казіміра і пасадзіць на трон Міхаіла Алелькавіча. Захоп ці забойства Казіміра планавалася правесці ў час палявання. Паводле інш. версіі, для забойства змоўшчыкі збіраліся выкарыстаць вяселле Бельскага, на якое запрасілі Казіміра. На выпадак няўдачы з замахам змоўшчыкі планавалі аддзяленне ад ВКЛ зямель усх. Беларусі (да Бярэзіны) і Украіны з Кіевам і падпарадкаванне ўладзе вял. князя маскоўскага Івана III. Магчыма, змоўшчыкі спадзяваліся на актыўную падтрымку Масквы (у 1480 вяліся перагаворы пра шлюб пляменніцы Міхаіла Алелькавіча Алены — дачкі Еўдакіі Алелькаўны і малдоўскага гаспадара Стафана III з сынам Івана III Іванам Маладым). З. была выкрыта, як мяркуюць, з дапамогаю кіеўскіх баяр Хадкевічаў. Бельскі ўцёк у Маскву, Алелькавіч і Гальшанскі 30.8.1481 пакараны смерцю.

***Валерый Пазднякоў.***

**Зэбжыдоўскага рокаш 1606—09**, Сандамірскі рокаш, узброенае выступленне шляхты Рэчы Паспалітай супраць абсалютысцкай палітыкі Жыгімонта III, узначаленае ваяводам кракаўскім Мікалаем Зэбжыдоўскім. Ракашане выступалі супраць планаў караля ўвесці спадчыннасць трона, абмежаваць паўнамоцтвы сойма і шляхецкія вольнасці. Калі на сойме ў сак.—крас. 1606 каралеўская партыя прапанавала праекты рэарганізацыі войска і скасавання прынцыпу аднагалосся ў сойме, незадаволеныя склікалі ў Стэнжыцы і Любліне шляхецкія з'езды. 10.8.1606 у процівагу сойму адкрыўся шляхецкі з'езд у Сандаміры, на які прыбылі і паслы з ВКЛ. Маршалкам з'езда абраны кальвініст падчашы ВКЛ Я.*Радзівіл*, які бачыў у рокашы сродак супрацьстаяць прakаталіцкай урадавай палітыцы. 20.8.1606 ракашане абвясцілі збор паспалітага рушэння, але пад націскам урадавых войск 3.10.1606 заключылі з каралём кампраміснае пагадненне. 24.6.1607 ракашане абвясцілі пра непаслушэнства каралю. Генеральная бітва паміж ракашанамі (больш за 6 тыс. жаўнераў і 1 тыс. шляхты) і каралеўскім войскам (больш за 12 тыс. кавалерыі і пяхоты) адбылася 5—6.7.1607 каля Гузава (Радамскае ваяв.). Радзівіл камандаваў левым крылом войска ракашан, яму супрацьстаяла правае крыло каралеўскага войска пад камандаваннем вял. гетмана ВКЛ Я.К.*Хадкевіча*. Ракашане былі разбіты, але працягвалі партызанскую барацьбу. У ВКЛ адбываліся сутычкі атрадаў Радзівіла і Хадкевіча. Канвакацыя сенатараў у Кракаве 9.6.1608 прыняла рашэнне аб дараванні ракашанам, калі тыя спыняць барацьбу. Рокаш скончыўся на кампрамісных умовах. На сойме 1609 ракашанам абвешчана амністыя, а Жыгімонт III яшчэ раз прысягнуў выконваць Генрыкавы артыкулы і захоўваць шляхецкія вольнасці. Хоць рокаш закрануў гал.ч. тэрыторыю Малой Польшчы, ён стаў першым супольным актам унутранай палітыкі шляхты Кароны Польскай і ВКЛ. Вынікам унутранай барацьбы стала падзенне аўтарытэту каралеўскай улады і рост уплыву магнатаў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Tyszkowski K. Odgłosy rokoszowe na Litwie // Ateneum Wileńskie. 1923. № 1; Maciszewski J. Wojna domowa w Polsce 1606—1609: Studia z dziejów kontrreformacji. Cz. 1. Od Stężycy do Janowca. Wrocław, 1960; Wisner H. Litwa wobec rokoszu (1606—1607) // Kwartalnik historyczny. 1972. Z. 2; Яго ж. Rokosz Zebrzydowskiego. Warszawa, 1989.

***Валерый Пазднякоў.***

**Зэльва** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Зэльвенскага р-на Гродзенскай вобл.,



Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ваўкавыскім пав. Навагародскага ваяв., на р. Зальвянка (прыток Нёмана). Першыя пісьмовыя звесткі пра З. адносяцца да 1470, калі Міхаіл Нацавіч залажыў у с. Вял. З. касцёл. У 1477 касцёл быў заснаваны ў маёнтку Малая З., якім валодаў Іван Гінейтавіч. Пры вял. князю Аляксандру ў пач. 16 ст. Малая З. падаравана кашталяну троцкаму і старасту жамойцкаму Станіславу Янавічу Кезгайлу. У пач. 16 ст. маёнткамі валодалі Іван Вішнеўскі, Юрый Іллініч, Іван Забярэзінскі, Мікалай Зяновіч. У 1524 Вял.З. ў дакументах называецца мястэчкам Ваўкавыскага пав., у 1536 і 1565 — гаспадарскае ўладанне. У 1550—60-х г. маёнткам Малая З. валодаў Станіслаў Камароўскі, а Вял.З. — Ян Глябовіч. У 1568 Юрый Іллініч падараваў Вял. З. (у далейшым стала называцца З.) М.К.Радзівілу Сіротку, які падараваў яе ў 1581 Язерскаму. У 1-й пал. 17 ст. ўладальнікамі З. сталі Сапегі. У 1616 мястэчка складалася з рынку і 3 вуліц (Дворная, Мяжэрыцкая, Ваўкавыская), існавала 17 корчмаў, 2 млыны. У 1643 Казімір Сапега прымаў у З. караля Уладзіслава IV. З 1655 З. валодалі князі Палубінскія, а ў 1685—1831 — зноў Сапегі. У 1690 цэнтр ключа Ваўкавыскага пав., 90 двароў. У 1720 З. атрымала прывілей на таргі і кірмашы. У 1739 заснавана рэзідэнцыя піяраў. З 2-й пал. 18 ст. Зэльвенскі кірмаш стаў адным з буйнейшых у ВКЛ, гандлявалі пераважна конямі. Пасярод рынку існаваў гасціны двор з 200 крамамі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

***Валерый Шаблюк.***

**зямяне**, з я м л я н е (ад польск. ziemianie ад ziemia зямля), 1) катэгорыя ваеннаслужылага насельніцтва ВКЛ, частка феадальнага стану (саслоўя). У 15—16 ст. назва З. пашырылася сярод *шляхты* ў зах. землях ВКЛ, што тлумачыцца ўжываннем польскай тэрміналогіі і перасяленнем пэўнай часткі польскай шляхты ў ВКЛ. Попіс войска ВКЛ 1528 дакладна адрознівае пошты (ваенныя атрады) баярскія ад зямянскіх. Пазней гэтыя 2 катэгорыі насельніцтва атаясамліваюцца — «зямяне або баяры». Заможная частка З. злівалася са шляхтаю, бяднейшая, блізкая па становішчы да *панцырных баяр* Полаччыны, захавала сваю назву і знаходзілася ў васальных адносінах з вял. князем ВКЛ ці феадаламі. З. павінны былі плаціць *чынш* і *каняўшчыну*, але ў выпадку вайны іх не сплачвалі, а мусілі станавіцца з канём і рыштункам у войска. З. выступалі не пад павятовай харугвай, а толькі ў атрадзе пана. У адрозненне ад шляхты не ўдзельнічалі ў сойміках. Да пач. 18 ст. З. як асобная катэгорыя амаль зусім зніклі. Ва Усх. Беларусі ў канцы 18 ст. былі ўсвяцкія З. (20 радоў) і аднолькавыя з імі паводле стану себежскія і невельскія ардынаты (20 і 48 родаў). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) З. былі абкладзены падушным падаткам, але ў меншым памеры, чым сяляне, і не змешаны з імі. Многія З. даказалі сваё шляхецкае паходжанне перад дваранскімі дэпутацкімі сходамі. 2) Назва буйных землеўладальнікаў у ВКЛ пераважна ў 17 ст.

***Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.***

**зямянскі суд**, павятовы шляхецкі суд у Рэчы Паспалітай у 1792—95. Створаны *Чатырохгадовым соймам 1788—92* у якасці павятовага суда 1-й інстанцыі па грамадзянскіх і крымінальных справах замест *земскіх судоў* і *гродскіх судоў*. 10 суддзяў, актавага пісара, 2 возных выбірала шляхта на сойміках на 4 гады; адваката, судовага пісара і рэгентаў выбіралі на 7 гадоў самі суддзі. Сесіі З.с. павінны былі адбывацца 3 разы на год, кворум — 5 суддзяў. Справаводства вялося ў выглядзе 4 рэестраў. У ВКЛ судаводства вялося на падставе Статута ВКЛ 1588, апеляцыйнай інстанцыяй для З.с. быў Трыбунал ВКЛ. На першыя 4 гады была дазволена праца ў складзе З.с. ранейшых земскіх і гродскіх суддзяў, астатніх давыбіралі соймікі. Гарадзенскі сойм 1793 замест выбараў увёў прызначэнне суддзяў Пастаяннай Радай. З.с. скасаваны пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Volumina Legum. T. 9. Kraków, 1889; S m o l e ń s k i W. Ostatni rok sejmu wielkiego. Kraków, 1986; W ą s i c k i J. Konfederacja Targowicka i ostatni sejm Rzeczypospolitej z 1793 roku. Poznań, 1952.

***Яўген Анішчанка.***

**Зяновічы**, З я н о ў е в і ч ы, Д э ш п а т ы - З я н о в і ч ы, шляхецкі род уласнага герба «Дэшпат». Паходжанне роду генеалагічная традыцыя 17—18 ст. звязвала з сербскім ці малдаўскім дэшпатам (намеснікам правінцыі), які з'ехаў у ВКЛ і паступіў на службу да вял. кн. Вітаўта. Аднак родапачынальнік Братоша (Братша) дзейнічаў у ВКЛ яшчэ да пачатку панавання Вітаўта. Упершыню ён згадваецца ў радзе полацкага кн. Андрэя Альгердавіча (да 1387), потым сярод паноў, якія паручыліся вял. кн. Скіргайлу за баярына Грыдку Канстанцінавіча (паміж 1387—92). У 1398—1404 Братоша пастаянна быў у радзе Вітаўта, у 1401 разам з ім згадваецца сын Зяновій, ад імя апошняга ўтварылася пазней родавое прозвішча. Зяновій Братошыч не згадваецца сярод літ. паноў, якія ў 1413 прынялі польскія гербы на Гарадзельскім сойме, што ўскосна сведчыць пра нелітоўскае паходжанне роду і, магчыма, правасл. веравызнанне. У 1414 Зяновій атрымаў ад Вітаўта пацвярджэнне права валодання бацькоўскімі маёнткамі, сярод якіх названы Мыш, Чарлёна, Вішнева на воз. Спягла, Чучалічы на воз. Нарач, Паставы з вял. абшарам да р. Дзісны і мяжы Полацкага пав., Глыбокае, якое было дадзена Братошы Ягайлам. У 1434 сын Зяновія Іван (Івашка) прыклаў бацькоўскую пячатку з родавым гербам да прысяжнай граматы вял. кн. Жыгімонта Кейстутавіча каралю Уладзіславу II Ягайлу. Іван і яго брат Васіль, намеснік крэўскі, памерлі да 1486. Іх стрыечны брат Алехна Пугач пакінуў сына Астафія, які ўпамінаецца ў 1486. Найб. вядомыя:

Ю р ы й І в а н а в і ч (каля 1450— пасля 1516), сын Івана Зяноўевіча. Намеснік браслаўскі (1494), смаленскі (1507—08), магілёўскі (з 1514), маршалак дворны (з 1515), уладальнік Смаргоні, Паставаў, Глыбокага і інш. Меў сыноў Мікалая, Юрыя, Міхаіла і Яна, якія памерлі маладымі і не займалі высокіх пасад. У 1522—24 першыя тры судзіліся з Радзівіламі за маёнтак Вапленае. У 1528 удава Мікалая ставіла ў войска 30 коннікаў, Юрый — 11, Міхаіл — 28, Ян — 41. Ад Мікалая і Міхаіла пайшлі 2 найб. значныя галіны З.

Ю р ы й М і к а л а е в і ч (каля 1510—83), сын Мікалая Юр'евіча. Стараста чачэрскі і прапойскі (1547—70), кашталян полацкі (з 1566), стараста лепельскі (1570) і дзісенскі (1577), кашталян смаленскі (з 1579). Удзельнік *Інфлянцкай вайны 1558—82*. У 1569 ставіў у войска 47 коннікаў з маёнткаў Куршаны ў Жамойці, Смаргонь, Паставы і Полава ў Ашмянскім пав., Касцяновічы ў Менскім пав. Праз шлюб з Соф'яй Янаўнай Глябовіч атрымаў Беліцу ў Аршанскім, Прусавічы, Гаць і Гасцілавічы ў Менскім пав. Валодаў яшчэ Глыбокім і Порплішчам у Ашмянскім, Кісялевічамі ў Рэчыцкім пав. Другім



шлюбам пабраўся з Ганнаю Іванаўнай Слушкай. У час рэфармацыі перайшоў у пратэстантызм. Меў сына Крыштофа і дачку Гальшку (Альжбету).

Крыштоф (каля 1540—1614), сын Юрыя Мікалаевіча. Стараста чачэрскі і прапойскі пасля бацькі ў 1577, кашталян (з 1585) і ваявода (з 1588) берасцейскі. Аўтар рукапіснага твора на польскай мове «Трагедыя, альбо Пачатак значнага ўпадку ў доме княства Літоўскага», у якім апісана сварка паміж віленскім ваяводам К.Радзівілам і віленскім кашталянам Г.Хадкевічам. Быў жанаты з Тэадорай Валовіч, пакінуў сына Мікалая Багуслава і дачку Соф'ю.

Мікалай Багуслаў (?—7.9.1621), сын Крыштофа. Стараста чачэрскі і прапойскі пасля бацькі, кашталян полацкі (з 1618). Перайшоў у каталіцтва. Быў жанаты з Ганнай Хадкевіч. Загінуў у час вайны Рэчы Паспалітай з Турцыяй. Апошні са старэйшай галіны 3. Яго маёнткі (Смаргонь, Паставы, Беліца і інш.) адышлі да малалетніх дачок Ганны Соф'і (каля 1615—64) і Соф'і (каля 1610—39).

Ян Міхайлавіч (?—?), сын Міхаіла Юр'евіча. Дваранін гаспадарскі, у 1554 заснаваў мястэчка ў Мосары Ашмянскага пав. Меў сыноў Юрыя і Яна, якія ў 1583 прадалі маёнтак Дубраўляны пану Роскаму.

Ян Янавіч (каля 1550—1614), сын Яна Міхайлавіча. Падстолі ВКЛ (з 1576), кашталян віцебскі (з 1594) і смаленскі (з 1600). Меў сыноў Юрыя (Ежы), суддзю земскага віленскага (1629—32), Міхала, Абрагама і Станіслава.

Станіслаў (каля 1610—72), сын Юрыя Янавіча. Падкаморы і ляснічы вількамірскі (1653), кашталян навагародскі (з 1671). Меў сыноў Крыштофа і Аляксандра.

Крыштоф (?—6.6.1717), сын Станіслава. Маршалак, стараста ашмянскі, палкоўнік войска ВКЛ, пісар вялікі ВКЛ (з 1703), ваявода менскі (з 1709).

*Літ.*: Niesiecki K. Herbarz polski. Lipsk, 1845. T. 10. S. 170—174; Пташицкий С.Л. Деспоты Зеновичи в конце XVI и начале XVII веков // Рус. старина. 1878. Т. 21—22; Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 417—419.

***Вячаслаў Насевіч.***





**Іаакім** Дыяканаў (Дыяканавіч), епіскап Магілёўскай праваслаўнай епархіі ў 1654—56. Меў афіц. тытул «епіскап полацкі». Прызначаны Маскоўскім патрыярхатам. У Магілёве не быў, кіраваў толькі той часткай епархіі, што была пад царскай уладай у час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Падпісаўся пад вызначэннем царк. сабора 1666—67 аб звяржэнні патрыярха Нікана.

***Ігар Пушкін.***

**Іаіль** Труцэвіч (?—1654), беларускі рэлігійны, грамадскі і культурны дзеяч, друкар, пісьменнік. Дзяцінства і юнацтва, відаць, прайшлі ў Магілёве, дзе ён мог атрымаць адукацыю. Чл. Магілёўскага Богаяўленскага брацтва (2-я чвэрць 17 ст.), удзельнічаў у яго рэліг. і асветніцкай дзейнасці. Першы ігумен *Куцеінскага Богаяўленскага манастыра* каля Оршы. У Магілёве, відаць, пазнаёміўся з бел. друкаром і асветнікам С.*Собалем*. У пач. 1630-х г. прымаў удзел у заснаванні *Куцеінскай друкарні*, з сярэдзіны 1630-х г. яе кіраўнік. У ёй выйшла 14 кніг, што прызначаліся для брацтваў, літургій, свецкага чытання і інш. Да большасці нелітургічных выданняў напісаў прадмовы на бел. і царкоўнаслав. мовах. Пад яго рэдакцыяй выйшлі «Лексікон славянароскі» Памвы Бярынды (1653), «Трэфалагіён» (1647) і інш. У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* садзейнічаў добраахвотнай здачы Магілёва рас. войскам (1654). Прыхільнік грамадска-паліт. і культ. сувязей з Рас. дзяржавай. Памёр у час пераезду друкарні ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам.

*Літ.*: Харлампович К. Малороссийское влияние на великорусскую церковную жизнь. Т. 1. Казань, 1914; Жудро Ф. Иоиль Труцевич, первый игумен кутеинских монастырей // Могилевские епархиальные ведомости. 1891. № 8—11.

***Георгій Галенчанка.***

**Іван III** Васілевіч (Иван III Васильевич; 22.1.1440, Масква—27.10.1505), вялікі князь маскоўскі [1462—1505]. Старэйшы сын Васіля II Цёмнага. Імкнуўся да ўмацавання і цэнтралізацыі Маскоўскай дзяржавы. У час яго праўлення выйшаў Судзебнік 1497, мэтай якога было ўнясенне аднастайнасці ў ажыццяўленне правасуддзя і кіравання ва ўсёй дзяржаве, пачаў складвацца цэнтралізаваны апарат улады, павялічылася значэнне памеснага землеўладання і дваранства. Пазіцыі ўдзельных князёў былі моцна аслаблены. У знешняй палітыцы актыўна праводзіў палітыку «збірання рускіх зямель» вакол Масквы. Да Маскоўскага княства далучаны Яраслаўскае і Растоўскае княствы, Цвярское вял. княства, Вяцкая і частка разанскіх зямель, захоплена Наўгародская феад. рэспубліка, якая шукала збліжэння з ВКЛ. У выніку шлюбу з прадстаўніцай роду візантыйскіх імператараў Соф'яй Палеалог і надання сабе тытула «государя всея Руси» пачаў прэтэндаваць на ролю спадкаемца візантыйскіх імператараў і ўладароў былой Кіеўскай Русі, на бел. і ўкр. землі, што знаходзіліся ў складзе ВКЛ. У час распачатых І. ІІ. *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1492—94* і *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* да Маскоўскага княства адышоў шэраг тэрыторый ВКЛ з гарадамі Чарнігавам, Ноўгарад-Северскім, Бранскам, Любечам, Гомелем, Старадубам, Мцэнскам, Бельскам і інш. Пры І. III канчаткова скасавана залежнасць Масквы ад Залатой Арды (1480). У той жа час ён падтрымліваў добрыя адносіны з Крымскім ханствам і заахвочваў крымскіх татараў да наездаў на паўд. землі ВКЛ.

*Літ.*: Черепнин Л.В. Образование Русского централизованного государства в XIV—XV вв. М., 1960; Зимин А.А. Россия на рубеже XV—XVI столетий: (Очерки соц.-полит. истории). М., 1982; Алексеев Ю.Г. Государь всея Руси. Новосибирск, 1991; Сагановіч Г.М. Айчыну сваю баронячы. Мн., 1992; Базилевич К.В. Внешняя политика Русского централизованного государства: Вторая половина XV века. [2 изд.] М., 2001.

***Юрась Бохан.***

**Іван IV** Васілевіч Грозны (Иван IV Васильевич Грозный; 25.8.1530, Масква—18.3.1584), вялікі князь маскоўскі і ўсяе Русі [з 1533], першы рускі цар [1547—84]. З дынастыі Рурыкавічаў. Сын вял. князя *Васіля III* Іванавіча і княгіні Алены Васілеўны Глінскай (гл. ў арт. *Глінскія*). У 7 гадоў застаўся круглым сіратой, выхоўваўся ва ўмовах баярскага кіравання, якое вызначалася зацятай барацьбой груповак Бельскіх, Шуйскіх і Глінскіх. Гэта наклала адбітак на фарміраванне ў яго характары падазронасці, скрытнасці і жорсткасці. У 1549—60 правёў рэформы цэнтр. і мясц. кіравання, арміі, суда, фінансаў і інш. Гал. мэтай унутранай палітыкі бачыў барацьбу з буйнымі феадаламі, умацаванне самаўладдзя і цэнтралізацыю дзяржавы, для



дасягнення якой абапіраўся пераважна на служылае дваранства. Праводзіў палітыку тэрору і рэпрэсій, якая дасягнула свайго апагею ў часы апрычніны (1565—72). Пры ім узмацнілася запрыгоньванне сялянства. У знешняй палітыцы прытрымліваўся курсу на пашырэнне межаў дзяржавы: у 1550-я г. захапіў Казанскае і Астраханскае ханствы; у залежнасць ад Масквы трапілі Сібірскае ханства і Вялікая Нагайская арда. Распачаў *Інфлянцкую вайну 1558—82* за Інфлянты, якія папрасілі дапамогі ў ВКЛ, пасля чаго ў 1562 на чале 80-тыс. войска ўварваўся ў межы Беларусі. Няўдалая і безвыніковая вайна разам з апрычнінай моцна аслабілі дзяржаву, прынеслі страшэннае спусташэнне не толькі на акупіраваныя тэрыторыі, але і на землі самой Масковіі, вычарпаўшы амаль усе яе людскія і матэрыяльныя рэсурсы.

*Літ.*: Дубровский С.М. Против идеализации деятельности Ивана IV // Вопр. истории. 1956. № 8; Зимин А.А., Хорошкевич А.Л. Россия времени Ивана Грозного. М., 1982; Альшиц Д.Н. Начало самодержавия в России: Государство Ивана Грозного. Л., 1988; Скрынников Р.Г. Царство террора: Монография. СПб., 1992; Яго ж. Великий государь Иоанн Васильевич Грозный. Т. 1—2. Смоленск, 1996; Яго ж. Иван Грозный. М., 2001; Зимин А.А. Опричнина. М., 2001.

***Юрась Бохан.***

**Іванава**, горад, цэнтр Іванаўскага р-на Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь, гл. *Янаў*.

**Івановіч** Грынь, беларускі друкар і гравёр 16 ст. Нарадзіўся ў мяст. Заблудаў Гарадзенскага пав. Каля 1570 І. *Фёдараў* узяў яго да сябе вучнем у *Заблудаўскую друкарню*; у Львове аддаў вучыцца да майстра Лаўрэнція Філіповіча (1577—79). Пасля 2-гадовага навучання І. рабіў шрыфты і аздобы для фёдараўскіх выданняў у Львове і Астрогу. У 1582 зрабіў шрыфт для *Віленскай друкарні Мамонічаў*. У 1583 вярнуўся ў Львоў, паводле дагавору з Фёдаравым павінен быў рабіць яму новыя шрыфты. Пасля смерці Фёдарава (1583) звесткі пра І. адсутнічаюць.

*Літ.*: Сидоров А.А. Древнерусская книжная гравюра. М., 1951. С. 111—115; Бацвіннік М. Паплечнік Івана Фёдарава // Мастацтва Беларусі. 1984. № 1.

***Марат Батвіннік.***

**Івацэвічы** (цяпер горад, цэнтр Івацэвіцкага р-на Брэсцкай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Слонімскім пав. Новагародскага ваяв., на р. Грыўда. Упершыню ўпамінаецца пад 1508 у зэльвенскай касцельнай кнізе ў сувязі са смерцю Мікалая Іванавіча Ілініча. У 1519 І. былі аддадзены гарадзенскім купцам за даўгі. У 1559 уладальнікам І. быў Ян Віктарын, потым яго сын, у 1565 — Софія Віктарынава. Пасля адм.-тэр. рэформы 1565—66 у Слонімскім пав. Новагародскага ваяв. У 1594 уладальнікам І. быў І.Сапега. На карце ВКЛ, выдадзенай М.К.Радзівілам у 1613, І. пазначаны як мястэчка. У 1654 І. належалі Юндзілам. У канцы 18 ст. тут пабудаваны бровар і смалакурня. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Івацэвіцкага р-на. Мн., 1997.

***Валерый Грынявецкі.***

**Івінскіс** (Ivinskis) Зянонас (25.5.1908, в. Каўшанай Плунгенскага р-на, Літва—24.12.1971), літоўскі гісторык. Д-р філасофіі (1932), праф. (1940). Вучыўся ў Каўнаскім (1925—29), Мюнхенскім і Берлінскім (1929—32) ун-тах. Даследаваў дакументы ў архівах Берліна і Гданьска. У 1933—40 выкладаў у Каўнаскім ун-це, заг. кафедры гісторыі. З 1940 працаваў у Музеі культуры ў Каўнасе. У 1941—43 выкладаў у Вільнюскім, а таксама ў аднаўленым Каўнаскім ун-тах, дзе 2 гады быў дэканам філасофскага факультэта. У 1944—49 жыў у Зах. Германіі, пасля ў Італіі, наведваў Германію, дзе ўзначальваў Балтыйскі ін-т (засн. ў Боне ў 1953). Даследаваў ватыканскія і інш. архівы. У 1963—71 выкладаў гісторыю Усх. Еўропы ў Бонскім ун-це. Працы па паліт. гісторыі ВКЛ, гал.ч. 13—16 ст., крыніцазнаўстве і гістарыяграфіі гісторыі Літвы.

*Тв.*: Vytautas Didysis istorineje literaturoje ir jo perijodo bibliografija // Vitautas Didysis, 1350—1430. Kaunas, 1930 (2 leid. Vilnius, 1988); Geschichte des Bauernstandes in Litauen von der ältesten Zeiten bis zum Anfang des XVI Jahrhunderts: Historische Studien. Berlin, 1933; Senoves lietuvių religijos bibliografija. Kaunas, 1938; Rinktiniai raštai. T. 1—4. Roma, 1978—89; Litwa w dobie chrztu i unii z Polską // Chrystianizacja Litwy. Kraków, 1987; Lietuvos istorija: Iki Vytauto Didžiojo mirties. 2 leid. Vilnius, 1991; Lietuvos istorijos šaltiniai. Klaipėda, 1995.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ігнаценка** Аляксандр Пятровіч (10.2.1932, в. Студзянец Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл.—24.5.1998), беларускі гісторык. Д-р гіст. навук (1978), праф. (1980). Скончыў БДУ (1955). Выкладчык, нам. дэкана завочнага і гіст. факультэтаў (1966—78), заг. кафедры гісторыі Беларусі (1990—94). Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1961, на рус. мове). Даследаваў пытанні ўзнікнення ВКЛ, месцазнаходжання летапіснай Літвы, развіццё гар. рамяства і сельскай гаспадаркі ў 17—18 ст., сялянскі рух на Беларусі ў 2-й пал. 17—18 ст.

*Тв.*: Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв. Мн., 1963; Русско-белорусские торговые связи во второй половине XVII в. // Вопросы истории БССР. Мн., 1969. Вып. 37; Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1974; Древнерусский язык. 3 изд. Мн., 1988 (з Н.С.Мажэйкай).

**Ігнацій** Аксяновіч-Старушыч (?—1650), дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Рэктар Кіева-Магілянскага калегіума, настаяцель Кіева-Выдубіцкага манастыра. У 1650 епіскап магілёўскі (рукапакладзены 12.7.1650). Прабыў у гэтым сане 4 месяцы. Будучы ў састарэлым узросце, памёр, так і не прыехаўшы ў Магілёў.

***Ігар Пушкін.***

**Ігнацій** Яўлевіч [Іяўлевіч; 26.9(6.10).1619, Магілёў—паміж 1667 і 1681], беларускі царкоўны і грамадскі дзеяч, педагог-асветнік, пісьменнік. Першапачатковую адукацыю атрымаў у г. Шклоў. Вучыўся ў Магілёўскай і Кіеўскай брацкіх школах, з 1632 у Кіева-Магілянскім калегіуме, тэалогію і медыцыну вывучаў у Замойскай акадэміі (Польшча). У час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67* прыхільна ставіўся да рас. улад, у якіх карыстаўся даверам. У 1656 упершыню ўпамінаецца як ігумен Богаяўленскага манастыра ў Полацку, пры якім адкрыў школу і бібліятэку. У 1659 атрымаў ад полацкага епіскапа Каліста паўнамоцтвы генеральнага намесніка. У 1659 пастаўлены царом Аляксеем Міхайлавічам архімандрытам Полацкага Барысаглебскага манастыра, застаўшыся богаяўленскім ігуменам. У 1660 прысутнічаў у Маскве на саборы, што судзіў патрыярха Нікана. Як вучоны чалавек і прамоўца І. карыстаўся павагай цара, патрыярхаў Нікана і Іаакіма. З літ. спадчыны І. дайшла яго аўтабіяграфічная запіска (на польск. мове, апубл. С.Голубевым у 1886), у якой важныя матэрыялы па гісторыі гар. адукацыі 2-й чвэрці 17 ст., 10 урачыстых прамоў на польск. і рус. мовах з нагоды



розных рэліг. і паліт. падзей (у т.л. на прыезд цара ў Полацк у 1656).

*Літ.*: Голубев С. История Киевской духовной академии. Вып. 1. Киев, 1886; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1; Марзалюк І. Забыты твор магілёўскага гісторыка XVII ст.: (Ігнацій Яўлевіч і яго трактат «Quod felix faustum fortunatum») // Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць. Магілёў, 2003. Ч. 1.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ігнацій Смалянін** (каля 1350-х г.— пасля 1408), пісьменнік, падарожнік. Біяграфічныя звесткі пра яго нешматлікія. На падставе складзенага ім «Хаджэння ў Царград» і некат. ускосных крыніц можна меркаваць, што І.С. удзельнічаў у паходзе Альгерда і смаленскага князя Святаслава Іванавіча на Маскву ў 1370, пасля працягваў вайск. службу. Каля 1387 прыняў манаскі пострыг і ў 1388 ад'ехаў у Маскву, дзе пачаў займацца летапіснай дзейнасцю. У 1389 наблізіўся да смаленскага епіскапа Місаіла і разам з ім увайшоў у світу маскоўскага мітрапаліта Пімена, які 13.4.1389 выправіўся ў Канстанцінопаль на патрыяршы сабор. Паводле загаду Місаіла І.С. працягваў летапісную справу, складаў часапіс піменавай вандроўкі. 28.6.1389 прыбыў у Канстанцінопаль, дзе ўступіў у пагадненне з прадстаўнікамі кіеўскага мітрапаліта *Кіпрыяна*, які спаборнічаў з Піменам. Пасля смерці Пімена (11.9.1389) і абрання Кіпрыяна мітрапалітам усяе Русі выйшаў са світы Місаіла і пакінуты Кіпрыянам у складзе дыпламат. місіі пры Канстанцінопальскай патрыярхіі. Абышоў і апісаў некат. прылеглыя да горада мясціны, барацьбу ў 1390 за візантыйскі пасад паміж Іаанам IV Калаянам і Мануілам II Палеалогам. У 1391 перажыў землетрасенне, у 1393 прысутнічаў на каранацыі Мануіла II і апісаў яе. У 1393—95, відаць, у Іерусаліме, у 1395 на Балканах, у 1397—1404 жыў на св. гары Афон, у 1405 склаў апісанне г. Салунь (Фесалонікі). У тым жа годзе вярнуўся ў Маскву, атрымаў сан архімандрыта Спаскага манастыра. Разам з Кіпрыянам складаў, пасля самастойна завяршыў Троіцкі летапіс (1408). Творчая спадчына І.С. дайшла ў перапрацаваным выглядзе і не цалкам. Апісанне вандроўкі ў Канстанцінопаль і жыцця за мяжой вылучана са складу гіпатэтычнага «Летапісца Ігнація», некалькі разоў адрэдагавана і захавалася як самастойны твор у складзе 2 рэдакцый, якія істотна адрозніваюцца паміж сабой зместам і стылем. Тым не менш, «Хаджэнне ў Царград» вызначаецца высокімі мастацкімі якасцямі і багатай інфармацыяй пра насельніцтва Прычарнамор'я, жыццё Візантыі і інш. Помнік склаўся на аснове спалучэння летапіснага стылю і традыцый паломніцкай л-ры і ўяўляе сабой пераход да свецкага апавядання пра вандроўку, можа разглядацца як адзін з першых узораў аўтабіягр. бел. прозы. Астатняя частка Летапісца была істотна скарочана і названа «Сказание летум въ кратце»; у шэрагу рукапісных зб-каў «Сказание», «Апісанне Салуня» і «Хаджэнне ў Царград» захоўваюцца разам. І.С. таксама прыпісваецца «Канон радасны прасвятой Багародзіцы».

*Літ.*: Гаранін С.Л. Шляхамі даўніх вандраванняў: Гіст.-тэарэт. нарыс развіцця бел. паломніцкай літаратуры XII—XVI стст. Мн., 1999.

***Сяргей Гаранін.***

**Іеранім** Ваўчанскі (?—14.10.1754), дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Брат *Іосіфа* Ваўчанскага. Ігумен Віленскага Святадухаўскага манастыра. Епіскап магілёўскі (1742—54). Рукапакладзены ў епіскапы ў Маскве ў 1744, тады ж атрымаў каралеўскі прывілей аб зацвярджэнні ў сане. У студз. 1745 урачыста прыбыў у Магілёў. У час епіскапскага служэння зведаў вял. цяжкасці і пакуты. Пахаваны ў алтары тады яшчэ не дабудаванай Спаса-Праабражэнскай царквы ў Магілёве.

***Ігар Пушкін.***

**Ізяслаў**, князь новагародскі ў 13 ст. Паходжанне невядома. Упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе, калі ў 1236 (або 1237) галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч на князя Конрада Мазавецкага «наведе ... Литву Миндога Изяслава Новогородського». Відаць, І. разам з Міндоўгам на той час быў у васальных або саюзных дачыненнях з Данілам.

***Валерый Пазднякоў.***

**Ізяслаў**, князь полацкі ў сярэдзіне 13 ст. Паходжанне невядома. Магчыма, тоесны новагародскаму князю *Ізяславу* ці свіслацкаму князю Ізяславу, якія ўпамінаюцца ў Галіцка-Валынскім летапісе. Стаў княжыць у Полацку ў 1263 ці 1264 пасля забойства полацкага князя *Таўцівіла* як стаўленік вял. князя літоўскага *Траняты*. Пазней прызнаў уладу вялікага князя літоўскага *Войшалка*. Каля 1265 заключыў дагавор з уладамі Рыгі і Інфлянцкага ордэна. Згодна з яго ўмовамі, палачанам і віцяблянам быў зноў дазволены гандаль у Рызе, на в-ве Готланд і ў Любеку, агавораны прынцыпы ўзаемаадносін у эканам., юрыд. і паліт. галінах, замацавана тэрытарыяльнае размежаванне. Магчыма, аднак, што дагавор не набыў сілы. Далейшы лёс І. невядомы.

*Літ.*: Данилевич В.Е. Очерк истории Полоцкой земли до конца XIV столетия. Киев, 1896; Baumgarten N. Polotzk et la Lithuanie une page d'histoire // Orientalia Christiana Periodica. 1936. № 1—2; Полоцкие грамоты XIII—начала XVI вв. Вып. 1, 3. М., 1977, 1980; Ермаловіч М.І. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990; Александров Д.Н., Володихин Д.М. Борьба за Полоцк между Литвой и Русью в XII—XVI веках. М., 1994.

***Васіль Варонін.***

**Іказненскі замак.** Існаваў у 16—18 ст. у в. Іказнь Браслаўскага пав. Займаў паўд.-ўсх. край вострава Замак на воз. Іказнь. Узвышаная частка пагорка (55 × 30 м) з Пн і У была абведзена мурам таўшчынёй 2 м, складзеным з валуноў і цэглы ў тэхніцы паласатай муроўкі. Зах. бок ахоўваўся гліняным валам, на якім былі драўляныя сцены. На паўд. краі замкавага пагорка стаяла мураванае збудаванне (20 × 18 м, таўшчыня сцен 2 м) з цэглы і валуноў, зробленае ў адной тэхніцы з мурам. У паўд. куце пагорка на курганападобным насыпе стаяла драўляная вежа. На ўсх. рагу замка ўзвялі 5-вугольную вежу-рандэль з валунна-цаглянымі сценамі таўшчынёй 2 м. Схілы замкавага пагорка амаль да самай вады былі забрукаваны. Уезд у замак размяшчаўся па цэнтры зах. сцяны. Падыходы да замка і ўсю астатнюю тэр. вострава займаў падзамак. З Пд і ПдЗ ён быў абнесены земляным валам вышынёй каля 2 м з драўлянымі канструкцыямі на ім. Пад замкам, у паўн.-зах. баку, знаходзілася сажалка для рыбы, злучаная спец. пратокай з возерам. Дно і бераг яе былі абкладзены камянямі і тоўстымі дошкамі. Цераз сажалку да замкавай брамы вёў драўляны мост. З берагам замак быў злучаны сканструяваным на чаўнах драўляным мостам, які ў выпадку ваен. небяспекі лёгка і хутка разбіраўся. Замак і «места» Іказнь закладзены ў 1504 браслаўскім старастам Янам Сапегам на падставе прывілея вял. князя Аляксандра. У 1515 рас. войскі аблажылі І.з. і спалілі мястэчка. Гісторык А.Гваньіні ў 2-й пал. 16 ст. адзначаў, што «Іказнь —



замак мураваны і места драўлянае... ад Браслава ў 2 мілях ляжыць». У *Інфлянцкую вайну 1558—82* Сапегі размясцілі ў 1561 у І.з. значны гарнізон наёмных войск. Пасля Яна Сапегі мястэчкам і замкам па частках валодалі князі Пронскія, Страбоўскія, Сіняўскія і Езлавецкія. Апошнія ў 1589 прадалі замак разам «з арматамі і стрэльбамі» Яну Сапегу за 15 тыс. злотых. У 1654 замак узяты рас. войскамі. У 1655 тут знаходзіліся атрады шведаў. Разбурэнне І.з. прыпадае на перыяд *Паўночнай вайны 1700—21*, у якой Сапегі прынялі бок Станіслава Ляшчынскага і шведскага караля Карла XII. У час археал. даследаванняў І.з. і падзамка (1971 і 1989, М.А.Ткачоў) знойдзены рэчы 16—17 ст. У ходзе падводных археал. даследаванняў пад сценамі замка выяўлены чаўны-даўбёнкі наплаўного моста, затопленыя на дне праліва паміж берагам і замкам, відаць, у 17 ст.

*Літ.*: Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Яго ж. Замкі і людзі. Мн., 1991.

***Міхась Ткачоў.***

**Ілавайскі** (Иловайский) Дзмітрый Іванавіч [11(23).2.1832, г. Раненбург Разанскай губ., цяпер г. Чаплыгін Ліпецкай вобл.—15.2.1920], расійскі гісторык, публіцыст. Са збяднелай купецкай сям'і. Скончыў Маскоўскі ун-т (1854). Служыў настаўнікам гімназій у Разані і Маскве. Ад'юнкт Маскоўскага ун-та (1860—62). У 1862 выйшаў у адстаўку і цалкам заняўся навук. і публіцыст. дзейнасцю. З гэтымі мэтамі наведаў Аўстра-Венгрыю, Балгарыю, Францыю, Іспанію, Турцыю, Англію. У 1885 атрымаў дваранскую годнасць. З 1905 член «Саюза рускіх людзей». Як публіцыст выступаў у газетах «Московские ведомости», «Санкт-Петербургские ведомости», «Русский мир». Выдаваў і рэдагаваў газ. «Кремль» (1897—1916). Належаў да славянафільскай групы гісторыкаў-масквічоў, якія абвясцілі вернасць «даўніне» і «старарускім ідэалам». Яго «Гісторыя Расіі» (т. 1—5, 1876—1905) — адна з апошніх спроб стварэння з пазіцый афіц. «ахоўнай» ідэалогіі абагульняльнай працы па рускай гісторыі. Паліт. кансерватызм І. праявіўся ў трактоўцы праблем славяназнаўства ў працы «Гродзенскі сойм 1793 г.» (1870), адной з прычын з'яўлення якой было паўстанне 1863—64 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. І. выводзіў прычыны падзелаў Рэчы Паспалітай са створанай ім «тэорыі дзярж. побытаў» (блізкай да канцэпцыі «культурна-гістарычных тыпаў» М.Я.Данілеўскага), паводле якой псіхалагічныя асаблівасці «народнага характару» прадвызначылі немагчымасць самастойнага дзярж. існавання польскай нацыі. На падставе гэтай тэорыі І. распрацоўваў праблемы славянскага этнагенезу, ролі славян у сусветным гіст. працэсе. Аўтар напісаных з «ахоўных» пазіцый падручнікаў па рускай і сусветнай гісторыі (больш за 100 выданняў у 1860—1916), якія садзейнічалі русіфікацыі на Беларусі.

*Тв.*: История Рязанского княжества. М., 1858; Гродненский сейм 1793: Последний сейм Речи Посполитой. М., 1870; Разыскания о начале Руси. 2 изд. М., 1882; Соч. Ч. 1—3. М., 1884—1914; Мелкие соч., статьи и письма. Вып. 1—2. М., 1888—96.

***Дзмітрый Караў.***

**Ілжэдзмітрый I** (каля 1581—17.5.1606), палітычны авантурыст. Выдаваў сябе за царэвіча Дзмітрыя, малодшага сына цара Івана IV, які ў 1591 быццам бы пазбег смерці ва Угліччы. Асоба І. І не высветлена. Існуе версія, што ён — збеглы манах маскоўскага Чудава манастыра Рыгор Атрэп'еў з дваранскага роду Атрэп'евых, продкі якіх выехалі з Беларусі ў Маскоўскае княства. Выступаў як прадстаўнік апазіцыйнага цару Барысу Гадунову маскоўскага баярства (Раманавых, князёў Чаркаскіх і інш.) і патрыярха. Паводле інш. звестак, яго спачатку падтрымліваў канцлер ВКЛ Л.Сапега. У 1601 І. І знаходзіўся ў Кіеве, Астрогу, Брагіне, дзе ў 1603 заручыўся падтрымкай уладальніка горада кн. А.Вішнявецкага. У 1604 з дапамогаю караля і вял. князя Жыгімонта III Вазы, часткі польскай, бел. і ўкр. шляхты, запарожскіх і данскіх казакоў перайшоў мяжу Расіі і, выкарыстаўшы антыфеад. выступленні сялян, гараджан і казацтва, іх веру ў «добрага цара», незадаволенасць баяр палітыкай цара Барыса Гадунова, авалодаў паўд. і паўд.-ўсх. часткамі Рускай дзяржавы, заняў Маскву і 21.7.1605 каранаваны як цар Дзмітрый І Іванавіч. Быў адукаваным чалавекам, ведаў некалькі моў і вайсковую справу. За час праўлення распусціў казацкае войска, з дапамогай якога авалодаў тронам, раздаваў грошы і землі рус. дваранам, казакам і наёмнікам з Рэчы Паспалітай, правёў чыстку войска ад халопаў, сялян і пасадскіх людзей. Адмовіў Рэчы Паспалітай у валоданні Смаленскай і Северскай землямі, якія раней абяцаў перадаць за падтрымку яго выступлення. У знешняй палітыцы намагаўся стварыць антытурэцкую кааліцыю. Забіты змоўшчыкамі-баярамі на чале з В.І.Шуйскім у час нар. паўстання.

*Літ.*: Щепкин Е.Н. Димитрий I // Русская история в очерках и статьях. М., 1910. Т. 2; Платонов С.Ф. Очерки по истории смуты в Московском государстве XVI—XVII вв. 5 изд. М., 1995; Его ж. Смутное время. СПб., 2001; Скрынников Р.Г. Самозванцы в России в начале XVII в.: Григорий Отрепьев. 2 изд. Новосибирск, 1990.

***Анатоль Грыцкевіч.***

**Ілжэдзмітрый II** (?—11.12.1610), палітычны авантурыст. Выдаваў сябе за рас. царэвіча Дзмітрыя, сына Івана IV, які быццам бы выратаваўся пасля маскоўскага паўстання 1606. Стаўленік агрэсіўных колаў Рэчы Паспалітай, а таксама дваранскіх і казацкіх колаў Расіі. Магчыма, быў прыбліжаным *Ілжэдзмітрыя I*. Асоба І. II не высветлена. Ёсць звесткі, што ён быў хрышчаным яўрэем, настаўнікам у Магілёве; паводле інш. звестак — паповіч, настаўнік у Шклове. Улетку 1607 з'явіўся ў Старадубе. З атрадамі польскай, бел. і ўкр. шляхты, данскіх казакоў зімой прыйшоў у Арол, летам 1608 падышоў да Масквы, заняў с. Тушына (адсюль мянушка «Тушынскі злодзей»), дзе сфарміраваў урад з рус. баяр (Раманавы, князі Чаркаскія, Трубяцкія, Сіцкія) і дваран з мітрапалітам Філарэтам, які быў прызначаны патрыярхам. Фактычна Тушынскі лагер узначальвалі кіраўнікі бел., польскіх і ўкр. атрадаў — Я.П.Сапега, М.Ражынскі, А.Ю.Лісоўскі. Войска І. II складалася з атрадаў шляхты Рэчы Паспалітай, рус. дваранства паўд. паветаў, казакоў, атрадаў разбітага войска І.Балотнікава. Да восені 1608 І. II кантраляваў раёны на Пн, У і ПнЗ ад Масквы. Наступленне аб'яднанага рас.-шведскага войска, адыход польска-бел. атрадаў тушынскага войска да караля Жыгімонта III Вазы вымусілі І. II у снеж. 1609 уцячы ў Калугу. У ліп. 1610 беспаспяхова спрабаваў захапіць Маскву, адступіў у Калугу, дзе быў забіты касімаўскімі татарскімі князямі за забойства ім царэвіча Ураз-Мухамеда (васала цара). Прыхільнікі І. II абвясцілі царом яго сына Івана Дзмітрыевіча, рэшткі тушынскага войска ўзначаліў І.М.Заруцкі.

*Літ.*: Шепелев И.С. Освободительная и классовая борьба в Русском государстве в 1608—1610 гг. Пятигорск, 1957; Пла-

тонов С.Ф. Очерки по истории смуты в Московском государстве XVI—XVII вв. 5 изд. М., 1995; Его ж. Смутное время. СПб., 2001.

*Анатоль Грыцкевіч.*

**Іллінічы**, шляхецкі род герба «Корчак». Паходжанне дакладна не высветлена, магчыма, з правасл. баярства Северскай зямлі. У сярэдзіне 15 ст. вядомы Яцка І., які атрымаў ад вял. князя Казіміра пацвярджэнне «отчины и дедины» ў Старадубскім і Радагошчанскім пав., с. Пожанка ў Клецкім княстве. Відаць, яго братам быў Іван І. (?—каля 1490), намеснік дарагічынскі (каля 1475), віцебскі (1482), смаленскі (1487). У 1487 ён абмяняў бацькоўскія вотчыны на дзярж. маёнтак Чарнаўчыцы ў Берасцейскім пав. Напэўна, ужо змоладу перайшоў у каталіцтва, як і яго сястра Барбара — удава пана Алехны Давойны, якая ў 1470 падаравала брату мужаў маёнтак Тарасаў пад Менскам. У 1477 Іван прадаў Тарасаў пісару Ваську Любічу. Іван быў жанаты (магчыма, другім шлюбам) з Ганнай Даўгірдаўнай, спадчынніцай Лынтупаў, Рэпухава і Воўкавічаў у Аршанскім пав. — па першым мужу, Юшку Гойцавічу. Усе гэтыя маёнткі перайшлі да Івана І. У канцы жыцця ён набыў таксама Мір у Навагародскім пав. Меў сыноў Мікалая і Юрыя, ад якіх пайшлі 2 галіны роду.

Мікалай (?—каля 1500), сын Івана. Намеснік менскі (1494), маршалак дворны (1495), намеснік смаленскі (1499). Быў жанаты з Ганнай, дачкой Міхала Наца, спадчынніцай Зэльвы і інш. маёнткаў. Яго сын Мікалай (?—каля 1540) не займаў высокіх пасад, вёў разгульнае жыццё і змарнаваў значную частку маёмасці. Сыны Мікалая Ян і Шчасны істотнай ролі ў справах дзяржавы не адыгрывалі.

Юрый (?—1526), сын Івана. Маршалак дворны і намеснік лідскі (1500). Вял. князь Аляксандр адабраў у яго Лідскае намесніцтва і аддаў родзічу свайго фаварыта Міхаіла Глінскага Аляксандру Дрожжу, што выклікала канфлікт паміж Глінскім і раднымі панамі. Зноў намеснік лідскі (1510), ковенскі (1514), берасцейскі і адначасова маршалак дворны (1519). Каля 1510 пабудаваў *Мірскі замак*. Праз шлюб з дачкой Яна Забярэзінскага атрымаў частку яе мацярынскай спадчыны: колішнія маёнткі М.Насуты — Шарашова ў Берасцейскім пав., Белую на Падляшшы і інш. Яго сыны Ян (каля 1495—1536), Станіслаў (каля 1500—31) і Шчасны (каля 1505—42) у 1529 ставілі ў войска адпаведна 55, 55 і 35 коннікаў. З іх Шчасны быў жанаты з Соф'яй Радзівіл. Перажыўшы братоў, сканцэнтраваў усе бацькоўскія і мацярынскія маёнткі. Яго сын Юрый (каля 1535—каля 1569), апошні прадстаўнік роду І., з 1555 карыстаўся тытулам графа «на Міры». У 1569 ставіў у войска 142 коннікі. Памёр нежанаты, асноўныя маёнткі (Мір, Белую, Чарнаўчыцы, Зэльву і інш.) завяшчаў стрыечнаму брату М.К.Радзівілу Сіротку.

У 2-й пал. 17—18 ст. вядомы шляхецкі род І. у Мсціслаўскім пав., уладальнікаў маёнтка Кудрынічы, які мае іншае паходжанне.

*Літ.*: Boniecki A. Poczet rodów w Wielkiem Księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku. Warszawa, 1887. S. 96—98.

*Вячаслаў Насевіч.*

**Ілья** Куча (імя па бацьку Якімавіч; ?—пасля лют. 1579), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Са шляхецкага роду. Падстараста пінскі ў 1563, кобрынскі ў 1566. Прыбліжаны мітрапаліта *Іоны IV*. 23.9.1576 па хадайніцтве апошняга Стафанам Баторыем прызначаны кіраваць Кіеўскай мітраполіяй, дзякуючы каралю атрымаў сан епіскапа. Пасля смерці Іоны IV — мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі (1577—79), на гэту пасаду па прадстаўленні Стафана Баторыя пастаўлены канстанцінопальскім патрыярхам.

*Валерый Пазднякоў.*

**Ільяшэвіч** Хведар (17.3.1910, Вільня—7.11.1948), беларускі паэт, празаік, гісторык, грамадска-культурны дзеяч. Магістр філасофіі (1936). Скончыў Віленскую бел. гімназію, гіст. ф-т Віленскага ун-та. Удзельнічаў у працы Бел. навук. т-ва. Адзін з кіраўнікоў Т-ва прыяцеляў беларусаведы, некаторы час узначальваў яго гіст. секцыю. Выкладаў бел. мову ў Віленскай бел. гімназіі. Актывіст культ.-асв. жыцця беларусаў у Вільні. Па паліт. матывах двойчы арыштоўваўся польск. дэфензівай, у 1927 зняволены ў турме ў Лукішках. Друкаваўся ў заходнебел. выданнях «Студэнцкая думка», «Крыніца», «Калоссе», «Родныя гоні», «Шлях моладзі», «Родны край» і інш. (псеўд. М.Дальны, Л.Іскра, Малады; крыпт. І-ч, Х. І.). Аўтар зборнікаў вершаў, літаратуразнаўчых прац. Даследаваў гісторыю друкарства на Беларусі. У час ням. акупацыі кіраваў «Беларускім аб'яднаннем» у Беластоку, рэдагаваў беластоцкую газ. «Новая дарога», садзейнічаў пашырэнню сеткі бел. школ. З 1944 на эміграцыі. Жыў у Зах. Германіі, у лагеры для перамешчаных асоб. Рэдагаваў (разам з М.Шыла) час. «Шляхам жыцця» (1946—48), інфармац. лісток (з № 2 бюлетэнь) «Апошнія весткі». Загінуў у аўтамабільнай аварыі ў Ватэнштаце. Пахаваны ў Галендорфе (ФРГ).

*Тв.*: З гісторыі друкарства // Гадавік Бел. Навук. Тав-ва. Вільня, 1933. Кн. 1; Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). Wilno, 1938; Канец існавання друкарні дому Мамонічаў // Запісы Бел. Навук. Тав-ва. Вільня, 1938. Сш. 1.

*Літ.*: Ліс А. Паэзія Хведара Ілляшэвіча // Культура беларускага замежжа. Мн., 1993. Кн. 2; Яго ж. Лірыка Хведара Ільяшэвіча // Полымя. 1998. № 11; Głogowska H. Teodor Iljaszewicz // Białoruskie zeszyty historyczne. 1999. Z. 11.

*Аляксандр Вабішчэвіч.*

**інвентары** (ад лац. inventarium вопіс), апісанні феадальных уладанняў у Беларусі, Украіне, Польшчы, Літве ў 16—1-й пал. 19 ст. У 16 ст. на Беларусі побач з тэрмінам «І.» ужываліся найменні «попіс», «рэестр», з 17 ст. амаль усе апісанні называюцца І. У 16 ст. ў асноўным складаліся на старабел. мове, з 17 ст. пісаліся па-польску, з 19 ст. — таксама



Метрыка ВКЛ. **Інвентар** двара Ведзьма Ляхавіцкага павета. 1551.



па-руску. Змест І. залежаў у першую чаргу ад мэт, дзеля якіх яны складаліся. У адных выпадках І. афармляліся як юрыд. дакументы (пры перадачы маёнтка ў арэнду ці пасля яе сканчэння, пры куплі-продажы, падзеле, дараванні, атрыманні ў спадчыну і інш.), у другіх — як улікова-гасп. дакументы, прызначаныя выключна для ўласных патрэб канкрэтнага ўладальніка. Ад мэтавага прызначэння І. і ад таго, што было аб'ектам апісання (асобная вёска, яе частка, фальварак, воласць, эканомія і інш.), залежала колькасць інфармацыі, змешчанай у ім. Найб. поўныя І. складаліся пры перадачы ўладання ў часовае карыстанне, напр. у арэнду, ці вяртанні яго ўласніку. І. звычайна меў тытульны ліст з назвай дакумента, дзе, як правіла, адзначалася назва маёнтка, каму ён належаў, калі, кім і з якой прычыны складаўся І. Потым ішло апісанне цэнтра ўладання — панскага двара: жыллёвыя і гасп. будынкі, іх архітэктура і планіроўка, з пералікам і апісаннем хатняга і гасп. начыння, адзення. Адзначалася наяўнасць у маёнтку царквы ці касцёла. Далей называліся памеры пасеваў па культурах, колькасць высеянага збожжа, а ў некат. выпадках і памеры мінулагодняга ўраджаю, колькасць ворнай, агароднай зямлі і сенажацяў, пералічвалася жывёла і птушка, давалася апісанне млыноў, кузняў, варыўняў і г.д., адзначалася існаванне рэчкі ці сажалкі. Называліся памеры і крыніцы прыбыткаў уладання. Пры наяўнасці ў маёнтку карчмы падаваўся прыбытак ад яе. Потым звычайна ішло апісанне сельскіх валасцей, гарадоў і мястэчак, а таксама фальваркаў, якія належалі да ўладання. Апісанне гарадоў і мястэчак рабілася па вуліцах з указаннем прозвішча гаспадара і памераў падаткаў, прызначаных на яго. У некаторых выпадках паказвалася колькасць зямлі, што ім належала. У вёсках гаспадары пералічваліся па дварах (*дымах*) з паказаннем колькасці зямлі (прысядзібнай, ворыва, сенажацяў). Пасля правядзення *валочнай памеры* перапіс рабіўся па *валоках*: паказвалася колькасць валок у вёсцы, занятыя і свабодныя валокі, а на занятых — тыя, хто карыстаўся валокай ці яе часткай (16—1-я пал. 17 ст.). Але вельмі хутка перайшлі да падворнага перапісу, паказваючы колькасць зямлі ў кожнай гаспадарцы. У І. абавязкова называлася прозвішча гаспадара, а ў некат. выпадках пера-



INWENTARZ
STAROSTWA KOZIAŃSKIEGO
w Witebskim Wdztwie leżących Dobr
J W.W. Ichmosciow Panow Ignacego
Z Heleny z Kozielska Ogińskich
Marszałkow W.W. W. L. N. Borysowskich
Kadarskich Mackow Koziańskich
&c. &c. Starostów Małżąkow
Po uczynioney powtorney Rewizyi Gronto[illegible] [illegible] Poddaństwa w tymże Starostwie mieszkaiących [illegible] wyrażonych
Przez
Niżey wyrażonego Kommissarza za wolą y Rozkazem Pańskim
w teraźnieyszym Roku 1763
Miesiąca [illegible] w Kozianach
SPORZĄDZONY

Тытульны ліст **інвентара** Казянскага старасства Віцебскага ваяводства. 1763.

лічваліся ўсе працаздольныя мужчыны і асобна сыны, апісваўся зямельны надзел, павіннасці з яго (цягла, чынш). Змяшчаліся звесткі пра рабочую жывёлу (коні, валы) у кожным сялянскім дыме, радзей пералічваліся прадукцыйная жывёла, пчаліныя вуллі, называліся сенажаці, што належалі вёсцы. Больш дэталёва павіннасці сялян адзначаліся ў канцы апісання кожнай вёскі або разам з гадавым даходам з усёй вёскі. Часам І. змяшчалі інструкцыі панскай адміністрацыі аканомам, дзе даваліся рэкамендацыі, як весці гаспадарку, што сеяць, як разбіраць спрэчныя справы і г.д. У некаторых І. ёсць звесткі пра сял. абшчыну (грамаду), планы маёнткаў, малюнкі з сял. жыцця.

І. дзярж. уладанняў складаліся пры змене кіруючых адм. асоб (старастаў, аканомаў, адміністратараў), перадачы зямель у арэнду ці пасля яе заканчэння, у час рэвізій гасп. стану маёнткаў, пры іх продажы ці заставе. Соймавая пастанова 1562 вызначала перыядычнасць рэвізій дзярж. уладанняў праз 5 гадоў, а соймавая канстытуцыя 1601 рэгламентавала парадак правядзення інвентарных апісанняў. На самай справе такія апісанні праводзіліся радзей і з'яўляліся ў асн. улікова-гасп. дакументамі. Найб. цікавасць маюць І. самых буйных дзярж. уладанняў — каралеўскіх ці велікакняжацкіх эканомій і старастваў, якія нярэдка змяшчаюць апісанні дзесяткаў і соцень сельскіх пасяленняў. І. уладанняў каталіцкай, правасл. і уніяцкай цэркваў блізкія па структуры да І. дзярж. уладанняў. Царк. уласнікі з прычыны частых прэтэнзій з боку прыватных феадалаў аддавалі вял. ўвагу абгрунтаванню сваіх правоў на маёнткі. Існуюць цэлыя зборнікі І. асобных уладанняў, якія адлюстроўвалі становішча залежнага насельніцтва на працягу дзесяткаў, а то і соцень гадоў. У некаторых царкоўных І. у выглядзе дадаткаў да асн. тэксту змешчаны ўставы сялянам і інструкцыі аканомам. Яны даюць магчымасць прасачыць змены ў эканам. становішчы насельніцтва, вызначыць ролю сял. абшчыны ў штодзённым жыцці вёскі. Захаваліся ў асн. І. буйных царк. уладанняў за 2-ю пал. 17—18 ст. Інвентарныя вопісы прыватнаўласніцкіх маёнткаў умоўна падзяляюцца на 2 групы: І. буйных магнацкіх уладанняў і І. маёнткаў дробнай і сярэдняй шляхты. Першыя вылучаюцца абгрунтаванасцю, поўным апісаннем гасп. стану. Складаліся яны ў асн. прадстаўнікамі ўласнай адміністрацыі. І. маёнткаў сярэдняй і дробнай шляхты захавалася значна менш, бо яна пастаянна займалася гасп. справамі і звычайна добра ведала становішча ў сваім маёнтку. І. такіх уладанняў складаліся пераважна пры пераходзе маёнтка да інш. ўласніка. Некаторыя разнавіднасці І. маюць значна менш інфармацыі, напр. берчакі (пералік сял. гаспадарак з паказаннем надзелу і чыншу), *люстрацыі* (характэрныя для дзярж. і некаторых царк. уладанняў). І. — найб. каштоўная і масавая крыніца па аграрнай гісторыі ВКЛ, краязнаўстве, дэмаграфіі, этналогіі, мовазнаўстве; змяшчаюць звесткі з гісторыі рамяства, прамысловасці, архітэктуры, землеўпарадкавання, промыслаў і інш. Беларускія І. захоўваюцца ў архівах Мінска, Гродна, Вільні, Масквы, Пецярбурга, Варшавы, Кракава і інш.

*Публ.*: Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 14, 25, 35, 38. Вильна, 1887—1914; Istorijos archyvas. T. 1. XVI amžiaus Lietuvos inventoriai / Surinko K.Jablonskis. Kaunas, 1934; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—2. Мн., 1959—60; Lietuvos inventoriai XVII a. Vilnius, 1962; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв.: Владение Сморгонь. Мн., 1977; Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв.: Владение Тимковичи. Мн., 1982.



*Літ.*: Воронков И.А. Инвентари имений — важный источник по истории польской феодальной деревни // Вопр. истории. 1959. № 4; Козловский П.Г., Чепко В.В. Инвентари и хозяйственные документы магнатских владений Белоруссии XVI—XVII вв. и инвентари помещичьих имений первой половины XIX в. как исторический источник // Ежегодник по аграрной истории Восточной Европы, 1962 г. Мн., 1964; Копысский З.Ю. Источниковедение аграрной истории Белоруссии. Мн., 1978; Мелешко В.И. Источники по социально-экономическому положению крестьян Белоруссии во второй половине XVII—XVIII вв. // Acta Baltico-Slavica. Wrocław etc., 1979. Т. 12; Голубев В.Ф. Источники по землевладению и землепользованию крестьян Белоруссии в XVI—XVIII вв. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1987. № 6.

***Валянцін Голубеў.***

**«Інвентары Літвы XVII ст.»** («Lietuvos inventoriai XVII a.»), археаграфічнае выданне інвентароў феадальных уладанняў ВКЛ 17 ст. Падрыхтавалі К.Яблонскіс і М.Ючас. Выдадзена ў Вільнюсе ў 1962. Надрукавана 115 інвентароў 1603—1700 з Цэнтр. дзярж. гіст. архіва Літвы, рукапісных аддзяленняў б-кі Вільнюскага дзярж. ун-та і Цэнтр. б-кі АН Літвы, Дзярж. рэспубліканскай б-кі Літвы. Дакументы асвятляюць гасп. стан прыватных уладанняў на тэр. сучаснай Літвы, а таксама Беларусі (маёнткі Камаі, 1611, Геранёны—Суботнікі, 1619, Жолава, 1645, Волянава, 1674, Бруднікі, 1696, усе ў Ашмянскім пав.). Інвентары надрукаваны на мове арыгіналаў (бел. і польскай). Выданне забяспечана паказальнікамі геаграфічных назваў і рэчаў.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Інвентары магнацкіх уладанняў Беларусі XVII—XVIII стст.»** («Инвентари магнатских владений Белоруссии XVII—XVIII вв.»), серыйнае выданне беларускіх *інвентароў*, выпушчанае Ін-там гісторыі АН БССР і Цэнтр дзярж. гіст. архівам БССР у Мінску. Інвентары выяўлены ў архівах Беларусі і Літвы і апублікаваны ўпершыню (у перакладзе з польск. на рус. мову). Выйшлі 2 кнігі: пра ўладанні Смаргонь (1977) і Цімкавічы (1982). У 1-й кнізе апублікавана 9 інвентароў феад. ўладання Смаргонь Ашмянскага пав. пач. 17 ст.—1788 (у пач. 17 ст. належала берасцейскаму ваяводу К.Зяновічу, пазней уласнасць Радзівілаў). Па форме, аб'ёме і змесце інвентары падзяляюцца на 4 храналагічныя групы. Асаблівасць інвентароў 1-й групы (пач. 17 ст.) — лаканічнасць і пэўная абмежаванасць звестак. У 2-й групе (сярэдзіна 17 ст.) адсутнічае павалочны парадак перапісу. 3-я группа (канец 17—сярэдзіна 18 ст.) дае больш поўны аб'ём звестак пра жыхароў мястэчка. 4-я група прадстаўлена інвентаром 1788, што вылучаецца вял. табліцамі, у якіх пададзены звесткі пра павіннасці кожнага селяніна, падрабязна распрацавана становішча розных груп насельніцтва, парадак выканання імі павіннасцяў. У 2-й кнізе змешчана 8 інвентароў графства Цімкавічы Навагародскага ваяв. за 1622—1778 (у 1-й пал. 17 ст. належала Сапегам, у 2-й пал. 17 ст. — Палубінскім, пасля Радзівілам). Інвентары па форме падзяляюцца на 3 храналагічныя групы. Для 1-й характэрны лаканічныя звесткі пра павіннасці, перавага лічбавага матэрыялу над апісальным. 2-я група прадстаўлена інвентаром 1638, дзе перапіс воласці зроблены павалочна, але звесткі пра склад сям'і адсутнічаюць. У 3-й групе паступова ўсталёўваецца падымны парадак перапісу. Матэрыялы выдання даюць магчымасць прасачыць шэраг заканамернасцяў, характэрных для магнацкіх маёнткаў Беларусі, раскрыць асаблівасці дынамікі насельніцтва, структуры прыбыткаў ад рэалізацыі збожжа, арэнды млыноў, ад розных пабораў, атрымаць інфармацыю аб забудове, планіроўцы мястэчак, лясной і рыбнай гаспадарцы.

***Вольга Бабкова.***

**індыгенат** (ад лац. indigenus мясцовы), у праве Рэчы Паспалітай прызнанне шляхецкіх правоў за асобамі замежнага паходжання. Упершыню шляхецтва Рэчы Паспалітай такім шляхам набылі пляменнікі караля Стафана Баторыя (1578). Першапачаткова І. прадастаўляў кароль і сойм. Соймавая канстытуцыя 1641, якая мела зваротную сілу да 1607, устанавіла, што І. можа прадастаўляць выключна сойм. У канцы 18 ст. ад індыгена (прэтэндэнта на І.) патрабавалася, каб ён набыў у Рэчы Паспалітай земскі маёнтак. Закон 1792 аб продажы каралеўшчын прадастаўляў замежнай шляхце І. і шмат ільгот, калі яна ўкладала ў эканоміку краіны капітал. І. часта быў прыхаванай формай *набілітацыі*.

***Валерый Пазднякоў.***

**«Індэкс забароненых кніг»** (лац. «Index librorum prohibitorum»), у мінулым у каталіцкай царкве спіс кніг, прызнаных шкоднымі для веры і маралі, за чытанне, захоўванне і распаўсюджванне якіх пагражалі меры царк. спагнання. Дзейнічаў з 1559 да 1966. Неаднаразова рэдагаваўся. Ужо з першахрысціянскіх часоў свецкія і царк. ўлады імкнуліся да кантролю над шкоднымі, на іх думку, кнігамі. Першыя ва ўласным сэнсе «І.з.к.» з'явіліся ў 16 ст. ў час *Рэфармацыі*, калі пасля вынаходніцтва кнігадрукавання стала немагчыма старымі сродкамі кантраляваць кнігі. Такія індэксы часта выдаваліся па ініцыятыве свецкіх улад у Францыі, Італіі, Германіі і інш. Першы рымскі «І.з.к.» абвешчаны ў 1559 папам Паўлам IV. Перапрацаванае на Трыдэнцкім саборы каталіцкай царквы 2-е выданне 1564 стала асновай для наступных індэксаў, якія значна перарабляліся пры папах Аляксандру VII (1664), Бенядзікту XIV (1757) і Льву XIII (1900). У 20 ст. ў «І.з.к.» не ўносіліся ўсе шкодныя для царквы кнігі, а толькі, як правіла, найбольш вядомыя творы каталіцкіх аўтараў і кнігі паводле пэўных тэматычных груп. Кантроль над здзяйсненнем «І.з.к.» выконвала з 1566 рымская кангрэгацыя індэксаў, а з 1917 — кангрэгацыя св. канцылярыі інквізіцыі на падставе кодэкса кананічнага права. З 1966 выданне «І.з.к.» спынена. Новая рэдакцыя кананічнага права (1984) не прадугледжвае забароны якіх-небудзь кніг. Акрамя рымскага «І.з.к.» існавалі мясц. варыянты. Першы мясцовы індэкс для Гнезненскай правінцыі, у склад якой уваходзіла Віленскае біскупства, быў надрукаваны ў 1603 у Кракаве (2-е выд. 1604, Замосце; 3-е — 1617, Кракаў). У кракаўскім «І.з.к.» акрамя рымскага спіса змешчаны выданні, што выходзілі ў ВКЛ і Польшчы, у прыватнасці творы А.*Волана*, С.*Буднага*, Я.*Каханоўскага*, Я.Немаеўскага, *Пятра з Ганёндза*, М.*Радзівіла* Чорнага, Ф.*Соцына*, А.*Фрыч-Маджэўскага*, *Берасцейская Біблія*, Нясвіжская Біблія і інш. Кракаўскае выданне «І.з.к.» шырока выкарыстоўвалася да з'яўлення рымскіх індэксаў 1704 і 1758 са спісамі аўтараў Рэчы Паспалітай.

*Літ.*: Григулевич И.Р. Инквизиция. 3 изд. М., 1985; Лозинский С.Г. История папства. 3 изд. М., 1986; Kodeks Prawa Kanonicznego. Poznań, 1984.

***Ігар Ганчарук.***

**«Інструкцыі для адміністрацыі феадальных уладанняў у Літве XVII—XIX ст.»** («Instrukcijos feodalinių valdų administracijai Lietuvoje XVII—XIX a.»), археаграфічнае выданне інструкцый уладальнікаў маёнткаў для свёй адмініст-



рацыі. Падрыхтавалі З.Кяўпа і Ю.Кяўпене. Выдадзена ў Вільнюсе ў 1985. Уключае 59 інструкцый 1609—1858 з рукапіснага аддзялення Цэнтр. б-кі АН Літвы, Цэнтр. дзярж. гіст. архіва Літвы і Цэнтр. дзярж. гіст. архіва Беларусі ў Мінску. Дакументы апублікаваны на мове арыгіналаў (польскай, рус., нямецкай). Надрукаваны 4 групы дакументаў: 4 агульныя інструкцыі 1621—94 прадстаўнікоў біржанскай лініі Радзівілаў для адміністрацыі сваіх уладанняў у Літве і Беларусі; 24 інструкцыі 1609—1834 для адміністрацыі маёнтка Біржы; 13 інструкцый 1666—1845 для адміністрацыі маёнтка Дубінкі (у т.л. ўстава зямянам); 18 інструкцый 1639—1858 для адміністрацыі Шаўліскай эканоміі і маёнтка Жагары—Грозды, што быў вылучаны з яе складу. Надрукаваныя дакументы асвятляюць гасп. і адм. палітыку феадалаў (гал.ч. Радзівілаў) у сваіх маёнтках, гасп. стан прыватных і дзярж. уладанняў. Выданне забяспечана паказальнікамі прадметным і геаграфічным.

*Валерый Пазднякоў.*

**інстыгатар** (ад лац. instigo узбуджаю), пасада ў ВКЛ і Польшчы. 1) Выконваў функцыі гал. пракурора дзяржавы. У Польшчы ўведзены ў 1557. У ВКЛ упершыню згадваецца ў 1565, з 17 ст. меў намеснікам *віцэ-інстыгатара*. З 18 ст. дыгнітарская пасада. Выступаў па ўсіх справах, не акрэсленых у праве, уносіў скаргі пра здраду дзяржаве і абразу маястату вял. князя. Пільнаваў даходы са сталовых маёнткаў вял. князя, уносіў скаргі супраць ураднікаў па гасп. справах. Засядаў у *задворным асэсарскім судзе* (з правам дарадчага голасу) і рэферэндарскім, падпарадкоўваўся *канцлеру*. 2) Трыбунальскія І. — судовыя ўраднікі ў Трыбунале каронным (з 1578) і *Трыбунале Вялікага княства Літоўскага* (з 1581). Прызначаліся маршалкам трыбунала. Падзяляліся на скрынкавых І., якія падтрымлівалі абвінавачанне і бралі плату ад бакоў, і І. бяспекі, якія падтрымлівалі парадак у будынку трыбунала і ў горадзе, дзе праходзіла яго сесія.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**інфамія** (ад лац. infamia бясслаўе), пакаранне «пазбаўленнем гонару». Пашыранае ў сярэдневяковы пакаранне шляхам пазбаўлення прававой абароны асобы і яе маёмасці на ўзор рымскага права. У Польшчы, а пасля Рэчы Паспалітай ужывалася ў дачыненні да шляхты. Пакараны (інфаміс) траціў гонар (шляхецтва) і правы дзеяздольнасці, не мог выконваць ніякіх грамадскіх дзеянняў, займаць пасады; яго мог забіць кожны (часта гэта нават ухвалялася дзяржавай) або зняволіць. У праве ВКЛ І. мела вынікам цывільную смерць (жонка інфаміса лічылася ўдавой, а дзеці — сіротамі). Права адмены І. належала выключна сойму. Здзяйсненне злачынства, за якое пагражала І. (гвалт, рабаўніцтва, крадзеж, кровапраліцце), звычайна выклікала ўцёкі вінаватага за мяжу. Частае вынясенне завочнай І., а таксама выдача глейтаў (жалезных лістоў) прывяло да таго, што І. страціла сваё першапачатковае значэнне. У 16 ст. з яе вылучылася *баніцыя* — больш лёгкая форма гэтага пакарання.

*Валерый Пазднякоў.*

**Інфлянты**, Лівонія, гістарычная назва зямель Усх. Прыбалтыкі (тэр. сучасных Латвіі і Эстоніі). Назва ад наймення фіна-угорскага племя ліваў, што жылі на ўзбярэжжы Рыжскага заліва, у вусці Дзвіны і Гаўі. У 12—пач. 13 ст. гэта тэр. па-лацінску наз. Лівонія (Livonia), па-нямецку Ліфлянд (Livland), адкуль бел. назвы Ліфлянты, Ліфлянцкая зямля, Інфлянты, Інфлянцкая зямля. У выніку ням. каланізацыі ў 13 ст. на гэтай тэр. ўтварылася канфедэрацыя 5 духоўнафеад. дзяржаў (*Інфлянцкі ордэн*, Рыжскае арцыбіскупства, Дэрпцкае, Эзель-Вікскае, Курляндскае біскупствы), якія намінальна лічыліся пад уладаю рымскага папы і імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі. *Інфлянцкая вайна 1558—82* і захоп Швецыяй паўн. Эстоніі схілілі вял. магістра Інфлянцкага ордэна Г.Кетлера да падданства вял. князю ВКЛ. Дамова пра падпарадкаванне (Pacta subiectionis) падпісана 5.3.1562. Ордэн быў секулярызаваны, а Кетлер стаў ленным герцагам (князем) у паўд. частцы І. — *Курляндскім і Земгальскім герцагстве*. Ён быў часова прызначаны губернатарам правабярэжных І. — *Задзвінскага княства*. У склад ВКЛ І. ўключаны 26.12.1566 на Гарадзенскім сойме пад назвай Інфлянцкае княства з наданнем яму герба. Люблінскі сойм 1569 змяніў статус І., абвясціў іх кандамініумам (супольным уладаннем) ВКЛ і Кароны Польскай. Канчаткова дзярж. лад І. вызначаны пасля скanчэння Інфлянцкай вайны. У 1582 кароль Стафан Баторый выдаў «Інфлянцкую канстытуцыю», падзяліў І. на Вендэнскі, Дорпацкі і Парнаўскі прэзідыяты. У 1589 кароль Жыгімонт III Ваза выдаў «Інфлянцкую ардынацыю», паводле якой прэзідыяты перайменаваны ў ваяводствы. У выніку *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* паўд. Эстонія і Зах. Латвія (Відземе) захоплены Швецыяй (т.зв. Шведскія І.), у складзе Рэчы Паспалітай засталіся толькі 4 інфлянцкія тракты (стараствы): Дынабургскі, Рэжыцкі, Люцынскі, Марыенгаўзенскі. Паводле Аліўскага міру 1660 Рэч Паспалітая прызнала за Швецыяй завяваную ёю частку І. Варшаўскі сойм 1667 пацвердзіў частцы І., якая засталася ў Рэчы Паспалітай, найменне княства, утварыў на яе тэр. *Інфлянцкае ваяводства* з цэнтрам у Дынабургу без падзелу на паветы. Замест ліквідаваных пасад ваяводаў і кашталянаў (вендэнскага, дорпацкага і парнаўскага) устаноўлены пасады ваяводы і кашталяна інфлянцкага, інш. пасады страчаных ваяводстваў захоўваліся, утваралася асобная *Інфлянцкая рымска-каталіцкая епархія*. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) І. захоплены Рас. імперыяй. У 1772—76 тэр. Інфлянцкага ваяв. ўключана ў Пскоўскую губ. як Дзвінская правінцыя, у 1776—96 уваходзіла ў Полацкую губ. як Дзвінскі (Дынабургскі), Рэжыцкі і Люцынскі пав., у 1796—1802 — у Беларускай губ., у 1802—1917 — у Віцебскай губ., цяпер у Латвійскай Рэспубліцы.

*Уладзіслаў Вяроўкін-Шэлюта.*

**Інфлянцкае ваяводства**, Інфлянцкае княства, адм.-тэр. адзінка Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Латгаліі (паўд.-ўсх. Латвія) у 1677—1772 (намінальна да 1795). У выніку *вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29* большая частка падуладных Рэчы Паспалітай Інфлянтаў (*Задзвінскае княства*) страчана на карысць Швецыі. Паводле *Альтмаркскага перамір'я 1629* у складзе Рэчы Паспалітай засталіся толькі 4 латгальскія стараствы: Дынабургскае, Рэжыцкае, Люцынскае, Марыенгаўзенскае. Паводле *Аліўскага міру 1660* Рэч Паспалітая канчаткова прызнала за Швецыяй завяваную ёю частку Інфлянтаў. На аснове застаўшыхся інфлянцкіх старастваў сойм у 1677 утварыў І.в., надаўшы яму таксама найменне княства. З канца 17 ст. за гэтай часткай былой Лівоніі замацавалася назва Інфлянты Польскія, г.зн. прыналежныя да Рэчы Паспалітай,



але канчаткова гэты тэрмін зацвердзіўся ў гістарыяграфічнай традыцыі 19 ст. Ваяводства не мела падзелу на паветы, адміністрацыйны цэнтр знаходзіўся ў г. Дынабург (Даўгаўпілс). Засталася падвойная прыналежнасць І.в. да ВКЛ і Кароны (Польшчы), што выяўлялася ў намінацыі на інфлянцкія ўрады праз абедзве канцылярыі і абранні інфлянцкіх паслоў на сойм з 3 «нацый» — па 2 прадстаўнікі ад шляхты Інфлянтаў, ВКЛ, Польшчы. Дзейнічаў прынцып альтэрнату — пачарговага заняцця інфлянцкіх урадаў прадстаўнікамі Кароны Польскай, ВКЛ і Інфлянтаў. У І.в. іерархія земскіх урадаў была ўведзена на ўзор ВКЛ, але сустракаліся ўрады, уласцівыя толькі Інфлянтам (напр., дарожны). У 17 ст. пачалася дэзарганізацыя інфлянцкіх ўрадаў, і па ўсёй Рэчы Паспалітай можна было спаткаць шляхціцаў з фіктыўнымі і дубліраванымі пасадамі гэтага ваяводства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) І.в. перайшло пад уладу Расіі. Але ў Рэчы Паспалітай працягвалася намінацыя на інфлянцкія ўрады, а інфлянцкая шляхта ўдзельнічала ў соймах Рэчы Паспалітай, праводзячы соймікі на левым беразе Дзвіны на лузе недалёка ад Дынабурга.

Ваяводы інфлянцкія: Я.Т.фон Шлібен (1677—95), Я.А.Плятэр (1695—96), О.Ф.фон Фелькерзамб (1696—1705), Ф.Плятэр (1705—07), С.К.Гротус (1707—12), Ю.Кос (1712—13), П.Е.Пшабендоўскі (1713—22), А.А.Морштын (1722—35), Я.Л.Плятэр (1735—36), Ф.Я.Шэмбек (1737—65), Я.Е.Ю.фон дэр Борх (1765—67), С.Бжастоўскі (1767—69), Я.Зыберк (Зіберг цу Вішлінг; 1769—75), Я.Т.Зыберк (Зіберг цу Вішлінг; 1775—78), К.Рагалінскі (1778—88), А.Э.фон Фелькерзамб (1790—94).

Кашталяны інфлянцкія: О.Ф.фон Фелькерзамб (1677—85), Я.Кос (1685—88), У.Ф.Бэрг (Борк) фон Кармель (1688—1710), П.Е.Пшабендоўскі (1710—13), Л.Барановіч (1717—18), Я.Шрэтэр (1718—26), А.Пшаздзецкі (1726—34), М.Свінарскі (1734—37), Я.М.Струцінскі (1737—44), Я.А.Гільзен (1744—54), Я.Немiровіч-Шчыт (1754—60), Ю.Е.Гільзен (1760—67), Я.Зыберк (Зіберг цу Вішлінг; 1767—69), Я.І.Лявіцкі (1769—78), Я.Мер (Міер; 1778—90), А.Касакоўскі (1790—95).

*Літ*: Manteuffel G. Inflanty Polskie, poprzedzone ogólnym rzutem oka na średniewiekową przeszłość całych Inflant. Poznań, 1879; Яго ж. O starodawnej szlachcie krzyżacko-rycerskiej na kresach inflanckich. Lwów, 1910; Сапунов А.П. Инфлянты: Исторические судьбы края, известного под именем Польских Инфлянт. Витебск, 1886; Kuntze E. Organizacja Inflant w czasach polskich // Polska a Inflanty. Gdynia, 1939; Heymowski A. Herbarz szlachty Inflant Polskich z 1778 roku // Materiały do biografii, genealogii i heraldyki polskiej. Buenos Aires, 1964. T. 2; Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku: Spisy. T. 9. Urzędnicy inflanccy XVI—XVIII wieku. Kórnik, 1994; Dybaś B. Materiały źródłowe do dziejów województwa inflanckiego i powiatu piltyńskiego w Państwowym Archiwum Historycznym Łotwy w Rydzie // Archeion. 2000. T. 101; Яго ж. Inflanty a polsko-litewska Rzeczpospolita po pokoju oliwskim (1660) // Między Zachodem a Wschodem. Toruń, 2002.

***Алег Дзярновіч.***

**Інфлянцкая вайна 1558—82**, вайна паміж ВКЛ (Рэччу Паспалітай), Вялікім княствам Маскоўскім, Шведскім і Дацкім каралеўствамі за тэрыторыю *Інфлянтаў*. Для ВКЛ асн. праціўнікам у вайне было Вял. княства Маскоўскае. У 1561—68 ВКЛ знаходзілася таксама ў стане вайны са Швецыяй, але ваенныя дзеянні з ёй не набылі шырокага размаху. Данія ў падзеях вайны на прыбалтыйскай тэрыторыі прымала пасіўны ўдзел. Паралельна з І.в. праходзіла Паўн. вайна 1563—70 паміж Швецыяй і Даніяй за дамінаванне на Балтыйскім моры. У І.в. вылучаюцца 2 перыяды: 1558—70 і 1576—82. У 1-ы перыяд адбыўся падзел тэрыторыі Інфлянтаў паміж ваюючымі бакамі, а таксама разгортванне шырокамаштабных ваенных дзеянняў паміж ВКЛ і Вял. княствам Маскоўскім. Гэты перыяд скончыўся заключэннем 3-гадовага перамір'я, якое фактычна дзейнічала да 1576. 2-і перыяд насіў характар рэваншавай вайны з боку Рэчы Паспалітай, у якой яна безумоўна мела перавагу. Зацікаўленасць ВКЛ у падпарадкаванні Інфлянтаў вынікала са стратэгічна-абарончых і гандлёва-эканам. інтарэсаў краіны. Кантроль над тэрыторыяй Інфлянтаў даваў магчымасць палепшыць знешнепаліт. становішча ВКЛ, ствараючы плацдарм для пагрозы Маскоўскай дзяржаве. Адначасова кантроль над інфлянцкай тэрыторыяй даваў магчымасць сачыць за развіццём падзей у рэгіёне Балтыйскага мора. Дзвінскі гандлёвы шлях быў адным з найважнейшых выхадаў у Балтыйскае мора і цесна звязваў у гаспадарчым плане паўн.-ўсх. раёны ВКЛ і Жамойцкую зямлю з Зах. Еўропай.

Канфлікт з-за Інфлянтаў пачаў выспяваць у пач. 1550-х г. ВКЛ і Прускае герцагства імкнуліся правесці секулярызацыю Інфлянтаў і іх падпарадкаванне на ўзор Прусіі. Павялічыць свой уплыў на ўнутраныя справы Інфлянтаў вял. князь Жыгімонт Аўгуст імкнуўся праз прызначэнне на пасаду каад'ютара (намесніка-пераемніка) Рыжскага арцыбіскупства Крыштофа, малодшага брата мекленбургскага герцага Іагана Альбрэхта. Супраць гэтага плана выступіў Інфлянцкі ордэн, у выніку чаго ў 1556 у Інфлянтах успыхнуў узброены канфлікт. Быў арыштаваны рыжскі арцыбіскуп Вільгельм — далёкі сваяк Жыгімонта Аўгуста. У 1557 ВКЛ і Польшча арганізавалі ваенную кампанію супраць Інфлянцкага ордэна. 14.9.1557 пад Пазволем падпісана пагадненне, у якім ордэн фактычна прызнаў сваё паражэнне і падпарадкаваўся патрабаванням Жыгімонта Аўгуста. У гэты ж час Вял. княства Маскоўскае імкнулася падпарадкаваць Інфлянты шляхам навязвання т.зв. «юр'еўскай даніны». Пасля няўдалага дыпламатычнага націску ў студз. 1558 Масква пачала ваенныя дзеянні супраць Інфлянтаў. У першыя гады вайны ёй ўдалося авалодаць важнымі стратэгічнымі пунктамі Нарвай і Дорпатам, акупіраваць усю паўн.-ўсх. частку Інфлянтаў.

У 1559 у інфлянцкі канфлікт умяшалася Данія, пад юрысдыкцыю якой добраахвотна перайшло Эзельскае біскупства. Дацкае пасольства хадайнічала перад царом Іванам IV Грозным аб спыненні ваенных дзеянняў з Інфлянцкім ордэнам, упэўніваючы яго ў намерах інфлянцкіх улад прызнаць асн. патрабаванні маскоўскага боку. Аднак, атрымаўшы ў 1559 кароткачасовую перадышку, кіраўніцтва Інфлянтаў пачало пошук знешняй дапамогі. Не знайшоўшы актыўнай падтрымкі з боку «Свяшчэннай Рымскай імперыі» — непасрэднага сюзерэна Інфлянтаў, магістр ордэна Г. Кетлер звярнуўся з просьбай аб абароне да Жыгімонта Аўгуста. Вынікам двухбаковых перагавораў стала заключэнне 31.8.1559 Віленскага дагавора, паводле якога Інфлянцкі ордэн пераходзіў пад пратэктарат Жыгімонта Аўгуста і перадаваў пад абарону ВКЛ замкі ў паўд.-ўсх. частцы Інфлянтаў.

У пачатковай фазе свайго ўдзелу ў І.в. для ВКЛ гал. задачай было пашырыць зону кантролю ў Інфлянтах праз размя-



шчэнне сваіх гарнізонаў у мясц. замках. Адначасова рабіліся дыпламатычныя намаганні па недапушчэнні разрастання ваеннай канфрантацыі з Маскоўскай дзяржавай. Нягледзячы на гэта, у жн. 1560 у Інфлянтах адбыліся першыя баявыя сутыкненні паміж ліцвінамі і маскоўцамі, якія мелі лакальны характар. Улетку 1561 пад юрысдыкцыю Швецыі перайшоў г. Рэвель (Талін). Гэта прывяло да пагаршэння адносін паміж ВКЛ і Швецыяй. Страта Рэвеля, а таксама безвынікова сць перагаворнага працэсу з Вял. княствам Маскоўскім прымусіла кіраўніцтва ВКЛ актывізаваць дзейнасць па падпарадкаванні Інфлянтаў. 28.11.1561 у Вільні паміж ВКЛ і Інфлянцкім ордэнам быў заключаны дагавор (т.зв. Pacta Subiectionis), паводле якога змяняўся дзярж. статус Інфлянтаў. На месцы секулярызаваных дзярж. утварэнняў былі створаны: на левабярэжнай частцы Інфлянтаў — *Курляндскае і Земгальскае герцагства* на чале з былым магістрам ордэна Кетлерам, у правабярэжнай частцы — *Задзвінскае княства*, якое фармальна належала Жыгімонту Аўгусту як вярхоўнаму валадару, аднак кіруючыя паўнамоцтвы тут атрымаў таксама Кетлер. Такім чынам, восенню 1561 адбыўся канчатковы падзел Інфлянтаў паміж 4 дзяржавамі.

Супярэчнасць інтарэсаў ВКЛ і Масквы ў Інфлянтах была настолькі вялікая, што пачатак шырокамаштабнай вайны паміж імі быў непазбежны. Ваенныя дзеянні па ўсёй лініі граніцы ВКЛ з Вял. княствам Маскоўскім на У Беларусі і Украіны пачаліся пасля заканчэння перамірнага тэрміну ў сак. 1562. Яны мелі характар нечаканых удараў невял. вайсковых груповак па тэрыторыі праціўніка. Маскоўцы здзейснілі спусташальныя набегі ў бок Оршы, Мсціслава, Шклова і інш. Ліцвіны ў адказ спустошылі ваколіцы Смаленска, Веліжа і Себежа. Найб. значная падзея з серыі гэтых двухбаковых удараў адбылася 19.8.1562 пад Невелем. Групоўка польскіх наймітаў (1500 коннікаў) на чале з С.Лесьнявольскім нанесла адчувальнае паражэнне 15-тысячнаму маскоўскаму войску, якім камандаваў князь А.М.Курбскі (у 1564 перайшоў на бок ВКЛ). Увосень 1562 цар Іван IV Грозны пачаў рыхтавацца да буйной выправы супраць ВКЛ. Паводле розных звестак, маскоўскае войска налічвала ад 60 тыс. да 200—300 тыс. чал. Для ўдару быў выбраны Полацк, да якога маскоўскае войска падышло 31.1.1563. Праз 2 тыдні з-за тактычных пралікаў полацкага ваяводы С.Давойны і ўмелага рас. артылерыйскага абстрэлу Полацк пагадзіўся на капітуляцыю (гл. *Полацка абарона 1563*). Цэнтр. ўлады ВКЛ амаль не аказалі гораду дапамогі (войска на чале з вял. гетманам ВКЛ М.Радзівілам Рудым колькасцю 3400 чал. падышло не бліжэй як за 40 км да Полацка). Узяцце Полацка маскоўцамі было найбуйнейшай падзеяй 1-га перыяду вайны. ВКЛ страціла значную тэрыторыю на паўночным усходзе. Ініцыятыва ў вайне цвёрда перайшла ў рукі маскоўцаў.

Бакі заключылі кароткачасовае перамір'е, аднак не знайшлі падстаў для далейшага прымірэння на перагаворах у канцы 1563. Вял. княства Маскоўскае пачало новую шырокамаштабную выправу ў глыб тэрыторыі ВКЛ. Адначасова са Смаленска і Полацка выступілі 2 вял. вайсковыя групоўкі агульнай колькасцю прыкладна 70—80 тыс. чал. 26.1.1564 каля с. Іванаўскае на р. Ула 18-тысячная полацкая групоўка на чале з ваяводам князем П.Шуйскім сутыкнулася з войскам ВКЛ, якое ўзначальваў Радзівіл Руды (гл. *Бітва на Уле 1564*). Дзякуючы нечаканаму нападу, непадрыхтаванае маскоўскае войска было цалкам разгромлена. Звесткі аб колькасці загінуўшых маскоўцаў вельмі супярэчлівыя — ад 150 да 9—30 тыс. чал. У бітве загінуў і Шуйскі. У палон быў узяты амаль увесь камандуючы састаў. Бітва дазволіла спыніць наступленне маскоўскага войска, аднак ВКЛ не ўдалося вярнуць страчаныя тэрыторыі на Полаччыне. З гэтага часу Масква пазбягала адкрытых сутыкненняў з ліцвінамі. У вер. 1564 ліцвіны зрабілі выправу пад Полацк, якая скончылася безвынікова. У ліст. 1564 маскоўскаму ваяводу Ю.Такмакову ўдалося захапіць замак Азярышча.

У 1565—66 ваенныя дзеянні сціхаліся ў сувязі з унутрыпаліт. ўскладненнямі ў абедзвюх дзяржавах і эпідэміяй чумы ў зоне ваеннага супрацьстаяння. Улетку 1566 была зроблена новая спроба знайсці кампраміс, аднак ваюючыя бакі зноў не здолелі дамовіцца аб прыналежнасці Інфлянтаў, а таксама вызначыцца з тэрмінам перамір'я. Бачачы немагчымасць кампраміснага рашэння, маскоўцы перайшлі да палітыкі паступовага пашырэння зоны акупацыі на Полаччыне праз



Да арт. **Інфлянцкая вайна 1558—82**. Ульскі замак. Рукапісны план 1568.

# ІНФЛЯНЦКАЯ ВАЙНА 1558—1582 гг.

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ РУСКІХ ВОЙСК СУПРАЦЬ ЛІВОНСКАГА ОРДЭНА ў 1558—1561 гг.**

Дзеянні войск

- рускіх
- лівонскіх
- літоўскіх і шведскіх — на баку Лівонскага ордэна (1560—1561 гг.)
- 11.V.1558 — Узяцце Нарвы і ўстанаўленне Нарвенскага гандлёвага шляху паміж Расіяй і краінамі Заходняй Еўропы
- (Швед. з 1561) (1561—1583 да Швецы) — Падзел паміж Швецыяй, Даніяй і Літвой земель Лівонскага ордэна, якія распаўся ў 1560—1561 гг. у выніку дзеянняў рускіх войск
- 28.XI.1561 — Заключэнне Віленскага дагавору паміж Лівонскім ордэнам, ВКЛ і Польшчай, які аформіў падзел Лівоніі

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ ПОЛЬШЧЫ, ВКЛ І ШВЕЦЫІ СУПРАЦЬ РАСІІ ў 1562—1578 гг.**

Дзеянні войск

- рускіх
- польска-літоўскіх
- шведскіх
- Дзеянні шведскага флоту
- Пераходы рускай конніцы ў Фінляндыю па лёдзе ў 1571 і 1577 г.
- Сканцэнтраванне польска-літоўскіх войск
- Граніцы дзяржаў
- Граніца земель, занятых рускімі войскамі ў 1558—1577 гг.
- Граніца Вялікага княства Літоўскага, аб'яднанага з Польшчай паводле Люблінскай уніі ў 1569 г. (Рэч Паспалітая)

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ І ШВЕЦЫІ СУПРАЦЬ РАСІІ ў 1579—1583 гг.**

Дзеянні войск

- польска-літоўскіх
- шведскіх
- рускіх
- Дзеянні шведскага флоту
- 26.VIII.1581 4.II.1582 — Аблога Пскова войскамі Стафана Баторыя
- 15.I.1582 — Заключэнне Ям-Запольскага мірнага дагавору паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай
- Тэрыторыя, якая адышла ад Расіі да Рэчы Паспалітай паводле Ям-Запольскага мірнага дагавору
- 1583 — Падпісанне Плюскага перамір'я паміж Расіяй і Швецыяй
- Тэрыторыя, якая адышла ад Расіі да Швецыі паводле Плюскага перамір'я




Крэпасць · Бой, бітва · Умацаваны населены пункт · Заняцце населенага пункта · Аблога крэпасці, горада і дата ўзяцця

МАШТАБ 1:4 500 000



пабудову невял. добраўмацаваных замкаў. У 1566—67 былі пабудаваны замкі Казьян, Красны, Кап'ё, Сокал, Тураўля, Ула, Усвят і інш. Для супрацьдзейнічання гэтаму на Полаччыну быў пасланы польны гетман ВКЛ Р.Сангушка, які за кароткі час здолеў арганізаваць эфектыўную абарону і спыніць прасоўванне маскоўцаў. У 1567 ВКЛ і Вял. княства Маскоўскае, нягледзячы на працяг дыпламатычных перагавораў, рыхталіся да прадаўжэння вайны. Восенню 1567 пад Маладзечнам і Радашковічамі было сабрана вялізнае па мерках ВКЛ паспалітае рушэнне — каля 30 тыс. коннікаў. Аднак ніякіх актыўных дзеянняў камандаванне гэтага войска, якое ўзначаліў сам Жыгімонт Аўгуст, не зрабіла. Толькі па ініцыятыве Я.Хадкевіча ў лют. 1568 была зроблена няўдалая спроба штурму замка Ула. Ф.Кміта ў гэты час правёў удалую маланкавую выправу па смаленскай акрузе. Аднак, сапраўды значнага поспеху дасягнуў у жн. 1568 Сангушка. Дзякуючы добра арганізаванаму штурму, быў узяты замак Ула. Маскоўцы ў адказ у вер. 1568 безвынікова спрабавалі ўзяць у аблогу Віцебск. У студз. 1569 на кароткі час жаўнерам ВКЛ удалося авалодаць Ізборскам у Пскоўскай зямлі. Такім чынам, у 2-й пал. 1560-х г. ліцвіны ў ваенным супрацьстаянні былі больш актыўныя і дасягнулі значных поспехаў. Баланс сіл у вайне паступова выраўноўваўся. Значна палепшылася знешнепаліт. становішча ВКЛ: Швецыя ў выніку змены ўлады зрабілася саюзнікам, а з Асманскай імперыяй было заключана трывалае перамір'е. Абодва ваюючыя бакі ў канцы 1560-х г. мелі патрэбу ў перадышцы для папаўнення сваіх рэсурсаў і вырашэння важных унутрыпаліт. пытанняў. Вынікам кампрамісу стала заключэнне 22.7.1570 3-гадовага перамір'я на аснове прызнання фактычнага кантролю над тэрыторыямі.

Вайна выявіла недастатковасць унутранага патэнцыялу ВКЛ для дасягнення поспеху. Паліт. эліта ВКЛ бачыла неабходнасць знешняй падтрымкі з боку Польшчы для эфектыўнай барацьбы з Маскоўскай дзяржавай. Аднак польскі бок за аказанне вайсковай і фінансаваматэрыяльнай падтрымкі патрабаваў заключэння уніі ВКЛ з Польшчай на новых умовах. Вайна стала моцным каталізатарам працэсу заключэння *Люблінскай уніі 1569*.

Фактычна перамір'е ў вайне захоўвалася да 1576. Гэтаму паспрыяў перыяд бескаралеўя ў Рэчы Паспалітай. Сваю кандыдатуру на каралеўскі трон Рэчы Паспалітай вылучаў і цар Іван Грозны. Абранне каралём Стафана Баторыя пярэчыла планам Масквы. Яна аднавіла ваенныя дзеянні і ў 1577 захапіла большую частку тэрыторыі Інфлянтаў, якая належала Рэчы Паспалітай. У адказ па ініцыятыве Стафана Баторыя ў Рэчы Паспалітай пачалася шырокамаштабная падрыхтоўка выправы супраць Маскоўскай дзяржавы. Для ўдару быў выбраны Полацк. 11.8.1579 горад узяты ў аблогу больш чым 40-тысячным войскам Рэчы Паспалітай, а 30.8.1579 маскоўскі гарнізон Полацка капітуляваў. У час кампаніі 1579 ад маскоўскіх войск была вызвалена ўся паўн. Беларусь.

Пасля гэтага поспеху кіраўніцтва Рэчы Паспалітай вырашыла перанесці ваенныя дзеянні на тэрыторыю Вял. княства Маскоўскага. Улетку 1580 была арганізавана выправа на Вял. Лукі, якія звязвалі Маскву з Інфлянтамі. 4.9.1580 велікалуцкі замак быў захоплены. У час гэтай кампаніі ўдалося заняць таксама Веліж, Усвяты, Невель і інш. Іван Грозны ў складаных для сябе ўмовах імкнуўся заключыць перамір'е, але Стафан Баторый вырашыў прадоўжыць вайну, каб канчаткова адрэзаць Маскву ад Інфлянтаў і Балтыйскага мора. У ліп. 1581 маскоўцы правялі контрнаступальную акцыю ў Падняпроўі, аднак былі хутка адагнаны за межы Рэчы Паспалітай. У гэты час войска Рэчы Паспалітай рушыла ў напрамку Пскова — наймацнейшай крэпасці на ПнЗ Вял. княства Маскоўскага. Аднак у адрозненне ад мінулых кампаній пскоўская выправа была горш падрыхтавана і запозна пачата, а Пскоў добра падрыхтаваўся да доўгачасовай аблогі. Першапачатковы штурм замкавых сцен быў беспаспяховы, пасля чаго войска Рэчы Паспалітай перайшло да пасіўнай аблогі. Восенню 1581 у ім пачаліся праблемы са зброяй (у прыватнасці, катастрафічна не хапала пораху) і харчаваннем. Сярод жаўнераў пачала расці незадаволенасць зацяжной і безвыніковай аблогай.

У гэтых умовах пры пасрэдніцтве папскага легата А.Пасевіна пачаліся перагаворы аб перамір'і. Яно было заключана каля Яма Запольскага 15.1.1582 тэрмінам на 10 гадоў (гл. *Ям-Запольскае перамір'е 1582*). Масква адмаўлялася ад сваіх тэрытарыяльных набыткаў у Інфлянтах і паўн.-ўсх. Беларусі. Рэч Паспалітая абавязвалася вызваліць занятыя тэрыторыі Маскоўскай дзяржавы. У той жа час паўн. частка Эстоніі адышла да Швецыі, якая скарысталася вайной паміж Рэччу Паспалітай і Вял. княствам Маскоўскім для паляпшэння сваіх пазіцый у Інфлянтах (Плюскае перамір'е 1583 паміж Швецыяй і Масквой). Ям-Запольскі дагавор зафіксаваў паражэнне Масквы ў І.в. Масква адмовілася ад вырашэння «балтыйскага пытання» да пач. 18 ст. Для Рэчы Паспалітай перамога ў вайне стала значным знешнепаліт. поспехам: былі далучаны новыя землі ў Прыбалтыцы, вырас яе аўтарытэт на міжнар. арэне. Аднак захаваліся супярэчнасці паміж Рэччу Паспалітай і Швецыяй, якая таксама выказала прэтэнзіі на інфлянцкія землі. На мяжы 16—17 ст. паміж імі аднавілася змаганне за Інфлянты (гл. *Вайна Рэчы Паспалітай са Швецыяй 1600—29*).

*Літ.*: Форстен Г.В. Балтийский вопрос в XVI и XVII столетиях. Т. 1—2. СПб., 1893—95; Новодворский В. Борьба за Ливонию между Москвою и Речью Посполитою (1570—1582): Историко-критическое исследование. СПб., 1904; Natanson-Leski J. Dzieje granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Cz. 1. Granica moskiewska w epoce jagiellońskiej. Lwów; Warszawa, 1922; Яго ж. Epoka Stefana Batorego w dziejach granicy wschodniej Rzeczypospolitej. Warszawa, 1930; Mienicki R. Egzulanci Połoccy (1563—1580 r.): (Karta z dziejów ziemi połockiej) // Ateneum Wileńskie. 1934. R. 9; Piwarski K. Niedoszła wyprawa t. z. Radoszkowicka Zygmunta Augusta na Moskwę. (Rok 1567—68) // Ateneum Wileńskie. 1927—28. Z. 13—14; Королюк В.Д. Ливонская война. М., 1954; Дербов Л.А. Борьба Русского государства за Прибалтику и Белоруссию в 60-х годах XVI в. // Уч. зап. Саратовского гос. ун-та. Харьков, 1956. Т. 47; Rasmussen K. Die livländische Krise 1554—1561. Kobenhavn, 1973; Tiberg E. Zur Vorgeschichte des Livländischen Krieges: Die Beziehungen zwischen Moskau und Litauen 1549—1562. Uppsala, 1984; Янушкевіч А. Інфлянцкі напрамак знешняй палітыкі Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне XVI ст. // Внешняя политика Беларуси в исторической ретроспективе. Мн., 2002; Яго ж. Уплыў Інфлянцкай вайны 1558—1570 гг. на кшталтаванне ўнутранай палітыкі Вялікага Княства Літоўскага // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2002. № 17; Хорошкевич А.Л. Россия в системе международных отношений середины XVI века. М., 2003.

***Андрэй Янушкевіч.***

**Інфлянцкая рымска-каталіцкая епархія**, адм.-тэр. адзінка рымска-каталіцкай царквы. Створана ў 1582 каралём польскім і вял. князем літоўскім Стафанам Баторыем у *Інфлянтах*. Вусна зацверджана рымскім папам Рыгорам XIII у 1583, адпаведную булу выдаў папа Сікст V у 1588. Цэнтр — г. *Вендэн*. Ахоплівала завяяваныя Рэччу Паспалітай землі ў Інфлянтах (у т.л. Рыга), а ў 17 ст. — і інфлянцкія тэрыторыі, кантроль над якімі быў страчаны на карысць Швецыі (у т.л. Рыгу). Першапачаткова называлася Вендэнская, з 1677 Інфлянцкая, пасля аб'яднання з Пільтэнскай епархіяй у 1685 — Інфлянцкая і Пільтэнская. Ствараючы новую епархію, Стафан Баторый імкнуўся да аднаўлення каталіцтва ў Інфлянтах, якое страціла тут свае пазіцыі ў выніку Рэфармацыі. Епархія атрымала ад яго некалькі маёнткаў, пасля яе ўладанні пашыраны шляхецкімі падараваннямі. У 1758 мела 12 парафій (у Пільтэнскай 10 парафій), у 1783 — больш за 30 парафій (у Пільтэнскай 15 парафій). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) частка епархіі далучана да Рас. імперыі (у 1783 гэта тэрыторыя ўключана ў Магілёўскую архіепархію). Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) рэшта епархіі таксама ў Рас. імперыі. У 1795 імператрыца Кацярына II замест Віленскай і Інфлянцка-Пільтэнскай рымска-каталіцкіх епархій стварыла агульную Інфлянцкую з цэнтрам у Вільні, што не было прызнана Рымам. У сваю чаргу апостальскі дэлегат у 1798 уключыў І.р.-к.е. ў склад Віленскай, што зацвердзіў у тым жа годзе папа Пій VI.

***Валерый Пазднякоў.***

**Інфлянцкі ордэн**, Лівонскі ордэн, каталіцкая дзяржава і ваенная арганізацыя рыцараў ва Усх. Прыбалтыцы на латышскіх і эстонскіх землях (*Інфлянтах*) у 13—16 ст. Створаны ў 1202 у вусці р. Дзвіна біскупам Альбертам Буксгёўдэнам і цыстэрцыянскім абатам Тэадорыкам. Першапачаткова ордэн наз. Браты рыцарства Хрыстовага (Fratres militiae Christi). Афіцыйнай яго мэтай была абвешчана абарона заснаванага ў Інфлянтах лацінскага касцёла і пашырэнне хрысціянства сярод ліваў, латгалаў і эстаў. У 1205 папа рымскі Інакенцій III зацвердзіў ордэн і надаў яму статут на ўзор ордэна храмоўнікаў (тампліераў). Паводле гэтага статута, члены ордэна падзяляліся на братоў-рыцараў, братоў-святароў і братоў-службовых. Браты-рыцары насілі белыя плашчы з выявай чырв. мяча і крыжа над ім, меч над крыжам быў і на ордэнскай пячатцы (адсюль пашыраная ў сярэдневяковай назва рыцараў Schwertbrüdere, літаральна «браты па мячы», «мечнікі», «мечаносцы»). На чале ордэна стаяў магістр, які выбіраўся ордэнскімі братамі з рыцараў (першым магістрам быў Вена). Магістр меў рэзідэнцыю ў ордэнскім замку ў Рызе. Мясц. ўладу ажыццяўлялі комтуры (начальнікі правінцыяльных замкаў) і фогты (адм. чыноўнікі, надзеленыя пераважна суд. функцыямі). Браты аднаго замка складалі канвент, іх сход называўся капітулам, агульны сход усіх ордэнскіх братоў — генеральным капітулам. Гал. даходам ордэна была даніна з мясц. насельніцтва (напачатку дзесяціна, з 1211 гадавая даніна збожжам), а таксама ваен. здабыча. Браты рыцарства Хрыстовага ў адрозненне ад тампліераў з самага пачатку залежалі ад улады біскупаў. У 1207 рыцары запатрабавалі ад біскупа Альберта частку заваяванай зямлі і атрымалі ў якасці лена трэцюю частку яго ўладанняў. Падобныя пагадненні афармляліся і з інш. біскупствамі, што ствараліся ў Інфлянтах. У выніку ордэн стаў найбуйнейшым землеўладальнікам у Прыбалтыцы. У 1231 магістр ордэна Фолквін пачаў перагаворы пра далучэнне да *Нямецкага ордэна*, больш цэнтралізаванага і моцнага, што забяспечыла б прыток новых сіл ням. каланізацыі ў Інфлянтах. Аднак вырашэнне пытання надоўга зацягнулася, пакуль рыцары І.о. не пацярпелі жорсткае паражэнне ў *Саўлескай бітве 1236*, калі загінула палова рыцараў і сам магістр. 12.5.1237 у Вітэрбо папа рымскі Грыгорый IX і вял. магістр Нямецкага ордэна Герман Зальца далучылі І.о. да Нямецкага. Браты рыцарства Хрыстовага апранулі адзенне нямецкіх рыцараў, прынялі іх сімволіку і статут. У Рыгу з першым падмацаваннем (60 прускіх рыцараў) прыехаў правінцыяльны магістр Герман фон Балк і прыняў уладанні мечнікаў. Ордэн Братоў рыцарства Хрыстовага спыніў сваё самастойнае існаванне і стаў часткай Нямецкага. Аднак залежнасць І.о. ад інфлянцкіх біскупаў захавалася. Умацаваўшыся, рыцары імкнуліся пазбавіцца залежнасці ад біскупаў і стварыць уласную самастойную дзяржаву, што прыводзіла да бясконцых канфліктаў. Толькі ў 1360 рыжскі біскуп адмовіўся ад свайго леннага права на ўладанні ордэна (відаць, яшчэ раней гэта зрабілі інш. біскупы). У 2-й пал. 15 ст., калі Грунвальдская бітва 1410 і цяжкія войны з Польшчай падарвалі магутнасць Нямецкага ордэна, інфлянцкая рыцарская дзяржава стала фактычна незалежная. У 1561 пасля нападу Маскоўскага царства на Інфлянты і Віленскага пагаднення І.о. быў секулярызаваны і яго тэрыторыя адышла да ВКЛ, а пазней — Рэчы Паспалітай.

Пячаткі магістраў **Інфлянцкага ордэна**.

*Літ.*: Bunge F. Der Order der Schwertbrüder. Leipzig, 1875; Benninghoven F. Der Orden der Schwertbrüder. Köln, 1965; Mugurevičs E. Die militärische Tätigkeit des Schwertbrüderordens (1202—1236) // Ordines militares. Toruń, 1991. T. 6.

***Генадзь Сагановіч.***

**інфлянцкія хронікі**, Лівонскія хронікі, сярэдневяковыя гістарыяграфічныя творы, напісаныя на тэрыторыі *Інфлянтаў*. Самая ранняя — «Хроніка» Генрыха Латвійскага, напісаная на лац. мове ў 1224—27. У ёй апавядаецца гал. чынам пра прымусовую хрысціянізацыю ліваў, латгалаў і эстаў, пра дзейнасць рыжскага біскупа Альберта. У творы ёсць важная інфармацыя і па гісторыі інш. народаў і дзяржаў, у т.л. пра Полацкае княства, з якім ням. місіянеры і Інфлянцкі ордэн сутыкнуліся на Дзвіне. Хроніка



паведамляе пра полацкія васальныя ўдзелы Герцыке і Кукейнос, узаемадачыненні Полацка і яго. кн. Уладзіміра з Рыгай, мірныя дагаворы паміж імі 1210, 1212 і 1222, падкрэсліваючы пры гэтым шэраг важных дэталяў гісторыі Полаччыны. На пач. 13 ст. пісалася і другая хроніка Інфлянцкага ордэна, але яна не захавалася. У сярэдзіне 13 ст. ў вышэйшых колах ордэна пачала стварацца т.зв. «Старэйшая рыфмаваная хроніка» на сярэднянямецкім дыялекце (аўтар невядомы). У ёй апісанне падзей даведзена да 1290, скіравана яно на гісторыю самога Ордэна, а не Інфлянтаў, значная ўвага аддаецца хрысціянізацыі прыбалтыйскіх народаў. Ёсць звесткі пра барацьбу паміж Літвою, Руссю і ордэнам. Гэтая хроніка — найважнейшая крыніца па гісторыі ўтварэння дзяржавы Міндоўга. Яе недахоп — адсутнасць дакладнага датавання падзей. Да сярэдзіны 14 ст. створана т.зв. «Малодшая рыфмаваная хроніка» Барталамея Хёнэке, якая ахоплівае перыяд 1315—48 і напісана на ніжненямецкім дыялекце. У ёй значнае месца займаюць паведамленні пра барацьбу ордэна з ВКЛ, Псковам і Ноўгарадам. У свой час гэта хроніка была вельмі папулярная і паслужыла крыніцай для многіх больш позніх ням. храністаў (Віганда з Марбурга, Дэтмара з Любека, Германа *Вартбурга* і інш.). Да нашага часу гэты помнік не збярогся. «Хроніка Лівоніі» Г.Вартбурга напісана на лац. мове неўзабаве пасля 1378. Яе аўтар выкарыстаў хронікі папярэднікаў, шматлікія граматы і канцылярскія матэрыялы з ордэнскага архіва. Сярод яго запісаў шмат каштоўнай інфармацыі пра войны Нямецкага (Тэўтонскага) ордэна з ВКЛ, Ноўгарадам і Псковам (паходы рыцараў на Полаччыну ў 1333, 1334, 1366, 1375, 1376 і 1377, ваенныя рэйды ВКЛ ва ўладанні ордэна, бітву на Стрэве 1348 і інш.). Наступныя гістарыяграфічныя творы ў Інфлянтах з'явіліся ў сярэдзіне 16 ст. (хронікі Тыдэмана Брэдэнбаха, Балтазара Русава, Ёгана Рэнэра і інш.). Усе яны паведамляюць пераважна пра маскоўскую агрэсію (*Інфлянцкую вайну 1558—82*). Самая папулярная на той час «Хроніка ліфляндскай правінцыі» Русава (эстонца па паходжанні) ахоплівае перыяд 1158—1583. Аднак звесткі пра падзеі 13—15 ст. у ёй агульныя і часта недакладныя, найб. падрабязна апісана Інфлянцкая вайна. Апошнім са значных гісторыкаў Інфлянцкага ордэна быў Рэнэр, які напісаў «Ліфляндскую гісторыю» ў 9 кнігах ад часоў персідскага цара Ксеркса (5 ст. да н.э.) да 1582. Увага аўтара скіравана пераважна на падзеі распачатай Іванам IV вайны. У творы змешчана інфармацыя з больш ранніх ням. хронік, што не захаваліся, найперш з «Малодшай рыфмаванай хронікі» Хёнэке.

*Літ.*: Scriptores Rerum Livonicarum. Bd. 2. Riga; Leipzig, 1848; Scriptores Rerum Prussicarum. Bd. 2. Leipzig, 1863; Die jüngere livländische Reimchronik Bartholomaus Hoenekes. Leipzig, 1872; Livländische Reimchronik / Hrsg. von L.Meyer. Paderborn, 1876; Генрих Латвийский. Хроника Ливонии. 2 изд. М.; Л., 1938.

***Генадзь Сагановіч.***

**Іона I** (?—31.3.1461), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Паходзіў з удзельнага Галіцкага княства. Там пастрыгся ў манахі, пасля перайшоў у Маскоўскі Сіманаў манастыр. Епіскап разанскі ў 1433—48. Пасля смерці мітрапаліта Фоція (1/2.7.1431) кіраваў справамі мітраполіі, аднак у 1432 мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі ў Канстанцінопалі зацверджаны смаленскі епіскап *Герасім*, стаўленік вял. князя літоўскага Свідрыгайлы. У адказ у 1432/33 вял. князь маскоўскі Васіль II прызначыў мітрапалітам І. І (тытулаваўся «нарачоным» мітрапалітам). Відаць, пасля спалення Герасіма (1435) І. І ездзіў у Канстанцінопаль, але не дамогся зацвярджэння, і ў 1437 мітрапалітам пастаўлены *Ісідор*. І. І зноў прэтэндаваў на мітрапаліцкі пасад пасля ад'езду Ісідора з Русі (1441). 15.12.1448 на саборы ў Маскве І. І абраны мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі. Гэтага абрання не падтрымалі правасл. патрыярх у Канстанцінопалі і патрыярх-уніят Ісідор. Нягледзячы на гэта, Віленскі сойм 31.1.1451 прызнаў адзінства Кіеўскай мітраполіі пад уладай І. І. Аднак у 1458 улады ВКЛ прызналі законным кіеўскім мітрапалітам *Грыгорыя II* Балгарына, пасвячонага патрыярхам-уніятам Грыгорыем Мамам. Гэта выклікала пратэст з боку І. І., які патрабаваў ад праваслаўных ВКЛ вернасці для сябе. Частка праваслаўных ВКЛ працягвала прызнаваць уладу І. І. У 1451 ён прызначыў сваім намеснікам у Кіеве протадыякана Акакія, пацвердзіў паўнамоцтвы епіскапа ўладзімірскага і берасцейскага Данііла, пастаўленага мітрапалітам-уніятам Ісідорам. У 1454 прасіў смаленскага епіскапа Місаіла, каб той не дапускаў варожых дзеянняў супраць Масквы мажайскага князя Івана Андрэевіча, што ўцёк у ВКЛ. І. І — аўтар пасланняў вял. князю літоўскаму Казіміру, кіеўскаму князю Аляксандру (Алельку), пану Міхаілу Кезгайлавічу, полацкім епіскапам Сімяону і Калісту і інш. Быў апошнім мітрапалітам, хто меў агульную ўладу над правасл. епархіямі ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы і стаў першым фактычным маскоўскім мітрапалітам.

*Літ.*: Русский феодальный архив XIV—первой трети XVI века. Ч. 1—4. М., 1986—88.

***Валерый Пазднякоў.***

**Іона II** Глезна (?—1494), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Архіепіскап полацкі. Мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (1489?—94, у 1492 зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам). Ад вял. князя літоўскага Аляксандра ў 1492 атрымаў пацвярджэнне ўсіх правоў, дадзеных духавенству, князям, баярам і шляхце любога веравызнання. Пры І. І шэраг правасл. манастыроў атрымалі ад магнатаў сёлы і зямельныя ўгоддзі.

**Іона III** (?—1507), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Да прыняцця манаства быў, відаць, белым святаром. Архімандрыт Менскага манастыра Ушэсця. Мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (1503—07). Прызначаны мітрапалітам дзякуючы хадайніцтву вял. княгіні ВКЛ Алены Іванаўны. У 1504 зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам Пахоміем. У адрозненне ад свайго папярэдніка *Іосіфа I* Балгарынавіча актыўна абараняў правасл. царкву. Дамогся ад вял. князя літоўскага і караля польскага Аляксандра выдання шэрагу прывілеяў для правасл. духавенства ВКЛ і правасл. жыхароў Віцебска (1503). Зацвердзіў заснаванне *Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра*. Пры ім адноўлены *Гарадзенскі Каложскі Барысаглебскі манастыр*, разбураны ў час *вайны Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03*. У час гэтай вайны трапіў у маскоўскі палон сын І. III Сенька Крывы, вызваліць якога мітрапаліту пры жыцці не ўдалося (адпушчаны ў 1509).

*Літ.*: Макарий. История Русской церкви. СПб., 1879. Т. 9. С. 149—157; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 124.

***Юрый Бажэнаў.***

**Іона IV** Пратасовіч-Астроўскі (?—1577), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Са шляхецкага роду. Да прыняцця сану быў, відаць, каралеўскім дваранінам. Епіскап пінскі і тураўскі ў 1566—68. Мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і



ўсяе Русі (1568—77). Правіў у складаных умовах пачатку пранікнення *езуітаў* у ВКЛ і схілення імі буйных бел. феадалаў у каталіцтва. Клапаціўся аб упарадкаванні дзейнасці епархій. Атрымаў ад вял. князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта II Аўгуста граматы аб недатыкальнасці духоўных спраў і судоў. Дамагаўся забароны даваць епіскапскія кафедры і манастыры свецкім асобам, аднак, нягледзячы на абяцанні караля, гэта заганная з'ява ў царк. жыцці ВКЛ працягвалася. Беспаспяхова прасіў Жыгімонта II Аўгуста дазволіць правасл. іерархам засядаць у каралеўскай радзе побач з каталіцкімі біскупамі. Калі састарэў, у 1576 прызначыў правіць мітраполіяй *Ілью* Кучу, захаваўшы за сабой старшынства ў духоўных справах.

*Літ.*: Макарий. История Русской церкви. СПб., 1879. Т. 9. С. 150—189; Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 128.

***Юрый Бажэнаў.***

**Іонішкі** (літ. Іонішкіс, Joniškis, цяпер горад, цэнтр Іонішкскага р-на Шаўляйскага пав., Літоўская Рэспубліка), мястэчка ў Жамойцкім княстве. Вядомы з пач. 16 ст. У 1523 пабудаваны касцёл, у 1526 упамінаецца як мястэчка. У пач. 17 ст. значны гасп. і гандлёвы цэнтр на Пн ВКЛ. 14.7.1616 атрымалі магдэбургскае права. Моцна пацярпелі ў час войнаў сярэдзіны 17 ст. і пач. 18 ст. У 1769 цэнтр сялянскага паўстання ў Шаўлiскай эканоміі. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Miškinis A., Tyla A. Joniškis // Lietuvos TSR urbanistikos paminklai. Vilnius, 1981. T. 4.

***Валерый Грынявецкі.***

**Іонішкіс**, горад у Літоўскай Рэспубліцы, цэнтр Іонішкскага р-на Шаўляйскага пав., гл. *Іонішкі*.

**Іосіф** Бабрыковіч-Капет-Аняхожскі (?, Вільня—1634 або 1635), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. На выхаванне І. зрабіў уплыў настаяцель Віленскага Святадухаўскага манастыра *Лявонцій* Карповіч. Пазней ва Угорніцкім скіце ў Галіцыі вывучаў статут і парадкі манаскага жыцця па чыне св. Васіля Вялікага. З 1624 рэктар Віленскай брацкай школы і брацкі прапаведнік. З 1625 намеснік Віленскага Святадухаўскага манастыра. У 1625 даваў парады паслам Запарожскага войска, якія накіроўваліся на сойм у Варшаву, неаднаразова прымаў удзел у працы соймаў. Удзельнік Кіеўскага сабора правасл. іерархаў (1628), які асудзіў і пракляў праўніяцкую «Апалогію» М.Смятрыцкага. У 1632—34(35?) архірэй Магілёўскай правасл. епархіі з тытулам «епіскап аршанскі, мсціслаўскі і магілёўскі». Выбраны 15.11.1632, зацверджаны 14.3.1633 прывілеем караля Уладзіслава IV, 1.10.1633 пасвячоны ў сан епіскапа. Кіраваў епархіяй з Вільні, часам наведваў Магілёў. Пахаваны кіеўскім мітрапалітам Пятром Магілаю ў Віленскім Святадухаўскім манастыры.

*Літ.*: Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 190; Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992.

***Ігар Пушкін.***

**Іосіф** Ваўчанскі (?—?), дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Брат *Іераніма* Ваўчанскага. Рэктар Кіеўскай акадэміі, член Кіеўскай духоўнай кансісторыі. Архімандрыт Кіева-Мікалаеўскага Пустынскага манастыра. Епіскап магілёўскі (1732—42). Выбраны ў ліп. 1732 на з'ездзе духавенства ў Магілёве, у 1734 пасвячоны ў сан епіскапа, 30.12.1735 зацверджаны прывілеем караля Аўгуста III. Садзейнічаў атрыманню ад Аўгуста III пацвярджальных грамат на Магілёўскі Богаяўленскі манастыр са школай і друкарняй, на друкаванне духоўных і свецкіх кніг, набыццё будынкаў і зямлі і інш. У 1740 заклаў у Магілёве мураваную Спаскую царкву. У 1737 беспаспяхова прасіў Сінод падпарадкаваць яму залежныя ад Кіева манастыры, у т.л. заможную Слуцкую архімандрыю. 3 вер. 1742 архіепіскап маскоўскі і ўладзімірскі. Памёр у Маскве, пахаваны ў Чудавым манастыры.

*Літ.*: Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 195; Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992.

***Ігар Пушкін.***

**Іосіф** Канановіч-Гарбацкі (?—сак. 1653), дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. Праф. і рэктар Кіева-Магілянскага калегіума, ігумен Міхайлаўскага Залатаверхага манастыра ў Кіеве. З 1644 каад'ютар (памочнік-намеснік) магілёўскага епіскапа *Сільвестра* Косава з тытулам «епіскап беларускі». У 1647—53 епіскап магілёўскі. Напачатку лічыўся епіскапам фармальна, бо пасля абрання Сільвестра 25.2.1647 мітрапалітам кіеўскім магілёўская кафедра да 1650 належала уніятам. 2.5.1650 (паводле інш. звестак 2.5.1651) атрымаў ад караля Яна II Казіміра прывілей на «епіскапства Беларускае». Паводле гэтага прывілея праваслаўным былі вернуты «Пячэрск з іншымі маентнасцямі і цэрквы». Пахаваны ў Магілёўскім Спаскім саборы.

*Літ.*: Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 2. С. XI; 1871. Т. 5. С. 123; Грыгаровіч І.І. Беларуская іерархія. Мн., 1992. С. 21.

***Ігар Пушкін.***

**Іосіф I** Балгарынавіч (?—1501), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Са шляхецкага роду, сваяк пісара ВКЛ І.С.Сапегі. У 1480-х г. архімандрыт Слуцкага Троіцкага манастыра. Пасля смерці кіеўскага мітрапаліта Сімяона (1488) адвозіў у Канстанцінопаль чалабітную правасл. князёў ВКЛ з просьбай паставіць на мітраполію *Іону II* Глезну. Верагодна, дзякуючы гэтай місіі архімандрыт стаў вядомы вял. князю Казіміру, які ў 1492 прызначыў яго епіскапам смаленскім. У канцы 1497 абраны мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі, зацверджаны вял. князем Аляксандрам 30.5.1498. За благаслаўленнем новы мітрапаліт звярнуўся да канстанцінопальскага патрыярха Ніфанта, адначасова прасіў у яго дапамогі ў барацьбе супраць царк. уніі з Рымам. Пасля змяніў паліт. арыентацыю і далучыўся да унійных планаў Аляксандра. Па просьбе І. І Аляксандр пацвердзіў правасл. царкве Польшчы і ВКЛ «Скрутак Ярасалава» (зборнік кананічнага права, заснаваны на стараж.-рус. «Уставе Ярослава»). Як умову уніі І. І патрабаваў захавання грэчаскага абраду, прызнання сапраўднасці правасл. хрышчэння, дазвол будаваць мураваныя цэрквы. Уговорваў прыняць унію вял. княгіню *Алену Іванаўну*, віленскіх мяшчан і інш. 10.5.1500 узведзены на мітрапаліцкі пасад згодна са стаўленай граматай канстанцінопальскага патрыярха Іаакіма І. 20.8.1500 І. І накіраваў ліст рымскаму папе Аляксандру VI з прызнаннем яго вяршэнства, праз паслоў агаворваў умовы царк. уніі, аднак атрымаў фактычную адмову.

*Літ.*: Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996; Флоря Б.Н. Попытка осуществления церковной унии в Великом княжестве Литовском в последней четверти XV—начале XVI века // Славяне и их соседи. М., 1999. Вып. 7.

***Валерый Пазднякоў.***

**Іосіф II** Солтан (?—1521 або 1522), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Пахо-



дзіў з роду *Солтанаў*. У пач. 16 ст. епіскап смаленскі. Блаславіў заснаванне *Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра* і падарыў яму ў 1503 *Супрасльскі абраз Маці Божай*. У час вайны *Маскоўскай дзяржавы з Вялікім княствам Літоўскім 1500—03* захаваў пры асадзе Смаленска вернасць вял. князю літоўскаму і каралю польскаму Аляксандру. За гэта ў 1504 атрымаў ад апошняга 3 маёнткі ў Бельскім пав.: Тапілец, Бацюты і Пышчава, у 1507 ад Жыгімонта I Старога — с. Капусцінскае. Мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі (1507—1521 або 1522). У 1509 зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам Пахоміем. 25.12.1509 склікаў у Вільні (тут знаходзілася яго рэзідэнцыя) сабор духавенства Кіеўскай мітраполіі, на якім было прынята 15 правіл, гал.ч. па паляпшэнні маральнага стану царквы. У прыватнасці, забаранялася прадаваць епіскапскія кафедры, ставіць свецкіх асоб на епіскапскія пасады. Аднак гэтыя пастановы і ў далейшым парушаліся велікакняжацкай уладай. У 1511 I. II пры дапамозе гетмана К.І.Астрожскага атрымаў ад Жыгімонта I грамату з пацвярджэннем ранейшых прывілеяў праваслаўным. У 1514 склікаў новы сабор, на якім было ўстаноўлена свята прападобнага Елісея Лаўрышаўскага (паводле легенды, заснавальнік Лаўрышаўскага манастыра ў 13 ст.). Пры I. II манастыры і прыходскія цэрквы ў Вільні, Віцебску, Гародні, Кіеве, Кобрыне, Менску, Мсціславе, Навагародку, Пінску, Смаленску, Супраслі, Тураве і інш. атрымалі ад буйных свецкіх феадалаў шэраг маёнткаў і інш. ахвяраванняў. У 1521 I. II разам з Астрожскім дамогся ад Жыгімонта I пастановы аб паляпшэнні становішча правасл. насельніцтва Галіцы (у складзе Польскага каралеўства). Завяшчаў Астрожскаму апеку над усёй мітрапаліцкай маёмасцю да абрання новага мітрапаліта.

*Літ.*: Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 125—126; Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996.

***Юрый Бажэнаў.***

**Іосіф III** (?—1534), дзеяч праваслаўнай царквы ВКЛ. Паходзіў са шляхецкага роду. У 1516 архіепіскап полацкі. Мітрапаліт кіеўскі, галіцкі і ўсяе Русі (1522—34). Правіў ва ўмовах вострай барацьбы каталіцкіх і правасл. феадалаў за ўплыў на вял. князя літоўскага і караля польскага Жыгімонта I. Пры дапамозе гетмана К.*Астрожскага* дамогся ад Жыгімонта I новых прывілеяў для правасл. цэркваў і манастыроў у Віцебску, Кіеве (у Кіева-Пячэрскай лаўры ў 1530 быў пахаваны Астрожскі), Менску, Пінску, Троках і інш.

*Літ.*: Мартос А. Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни. Мн., 1990. С. 125—126; Макарий (Булгаков). История Русской Церкви. Кн. 5. М., 1996.

**Іосіф IV** Нелюбовіч-Тукальскі [свецкае Анастасій; ?—26.7(5.8).1676], дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай. З пінскага шляхецкага роду герба «Касцеша», сын пінскага войскага. Вучыўся ў Віленскай брацкай школе. У канцы 1620-х г. уступіў у Віленскі Святадухаўскі манастыр, у 1629 перайшоў у новазаснаваны Купяціцкі манастыр. У 1641—44 купяціцкі ігумен, намеснік луцкага епіскапа. З 1644 архімандрыт Пінскага Лешчанскага манастыра. Прызначаны мітрапалітам Дыянісіем Балабанам сваім намеснікам у ВКЛ. У 1661 пастаўлены Дыянісіем Балабанам епіскапам мсціслаўскім, аршанскім і магілёўскім (зацверджаны каралём у 1661 ці 1662). Аднак Магілёўскай епархіяй фактычна кіраваў епіскап Мяфодзій, прызначаны рас. уладамі ў час *вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67*. Пасля смерці мітрапаліта Дыянісія Балабана сабор у Корсуні ў 1663 абраў мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі I. Аднак хутка пасля іншы сабор абраў мітрапалітам епіскапа перамышльскага Антонія Вінніцкага. Абодва прэтэндэнты атрымалі ў 1663 ад караля пацвярджальныя прывілеі. У 1664 па нагаворы гетмана Правабярэжнай Украіны П.Цяцеры I. IV арыштаваны каралеўскімі ўладамі і разам з былым гетманам Ю.Хмяльніцкім сасланы ў Мальбарк (Марыенбург). У 1667 вызвалены і атрымаў каралеўскі прывілей на мітраполію. У 1668 па хадайніцтве гетмана П.Дарашэнкі зацверджаны канстанцінопальскім патрыярхам Мяфодзіем III у сане мітрапаліта і патрыяршага экзарха ў Рэчы Паспалітай, заставаўся епіскапам мсціслаўскім, аршанскім і магілёўскім, архімандрытам лешчанскім. Намагаўся распаўсюдзіць сваю ўладу і на Левабярэжную Украіну, якая заставалася пад кантролем рас. улад. Пры садзейнічанні Дарашэнкі схапіў і зняволіў свайго даўняга саперніка Мяфодзія, на той час ужо мітрапаліцкага месцаахоўніка на Левабярэжжы. Жыў у Чыгірыне, пахаваны ў Лубнах.

*Літ.*: Mironowicz A. Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski. Białystok, 1998.

***Валерый Пазднякоў.***

**Іоў** Барэцкі [свецкае Іван Мацвеевіч; ?, мяст. Барэчы, Галіччына—2(12).3.1631], дзеяч праваслаўнай царквы Рэчы Паспалітай, перакладчык, пісьменнік. У 1604—05 рэктар Львоўскай брацкай школы, выкладаў лац. і грэч. мовы, у т.л. ў доме князя К.К.Астрожскага. З 1610 святар у Кіеве. З 1615 першы рэктар Богаяўленскай брацкай школы (пазней акадэмія). У 1618 стаў манахам у Кіеўскім Міхайлаўскім манастыры, яго ігумен з 1619. У 1620 канстанцінопальскі патрыярх без санкцыі ўлад пасвяціў I. ў сан мітрапаліта кіеўскага, што паклала пачатак аднаўленню ў Рэчы Паспалітай правасл. іерархіі, скасаванай пасля заключэння *Берасцейскай уніі 1596*. Актыўна змагаўся супраць пашырэння каталіцтва і уніі. Кароль Жыгімонт III абвясціў I. шпіёнам і бунтаўшчыкам, але не мог зрабіць супраць I. рашучых крокаў, бо той знаходзіўся ў Кіеве пад аховай казакоў. I. паслаў у Маскву луцкага епіскапа Ісаакія прасіць прыняць Украіну ў маскоўскае падданства. Падтрымліваў кнігадрукара і асветніка С.*Собаля*, садзейнічаў пашырэнню пісьменнасці. Аўтар пасланняў, лістоў, прадмоў, перакладаў, палемічных твораў: «Дыялог пра праваслаўную веру» (Астрог, 1606), «Анфалагіён, або Выбраная мінея на ўвесь год» (Кіеў, 1619; пераклад з грэч. мовы, дапоўнены службамі рус. святым і іх кароткімі біяграфіямі), «Аполія Апалогіі М.Сматрыцкага» (Кіеў, 1628; накіравана супраць поглядаў Сматрыцкага на унію) і інш. Творы I. былі вядомы чытачам ВКЛ, яго дзейнасць адыграла пэўную ролю ў развіцці культуры ВКЛ.

*Літ.*: Голубев С.Т. Киевский митрополит Петр Могила и его сподвижники. Т. 1. Киев, 1883; Возняк М. Письменницька діяльність Івана Борецького на Волині і у Львові. Львів, 1954.

***Валерый Пазднякоў.***

**Іофе** Эмануіл Рыгоравіч (н. 20.3.1939, г. Беразіно), беларускі гісторык, палітолаг, сацыёлаг, культуролаг. Д-р гіст. навук (1993), праф. (1995). Скончыў БДУ (1961). Працаваў настаўнікам, завучам, выкладчыкам тэхнікума. З 1978 у Бел. пед. ун-це. Даследуе бел. гістарыяграфію, гісторыю бел. гарадоў, навукі і культуры,

грамадзянскай і Вял. Айч. войнаў, гісторыю і гістарыяграфію бел. яўрэяў, метады гіст. даследавання, культуралогію, паліталогію, сацыялогію. Адзін з аўтараў кнігі «Акадэмік У.І.Пічэта» (1981), аўтар навучальна-метадычных дапаможнікаў. Акадэмік Міжнар. акадэміі вывучэння нац. меншасцей (1996).

*Тв.*: Исследование В.И.Пичетой аграрной реформы 1557 г. // Сов. славяноведение. 1972. № 3; В.И.Пичета как историк социально-экономического развития Белоруссии в эпоху феодализма // Славяне в эпоху феодализма. М., 1978; Березино: Ист.-экон. очерк. Мн., 1986; Из истории белорусской деревни: (Сов. историография соц.-экон. развития бел. деревни середины XVII—первой половины XIX в.). Мн., 1990; Во многом общая судьба: (белорусские татары и евреи в составе Великого княжества Литовского) // Першая міжнар. навук.-практ. канф. «Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы». Менск, 26—27 сак. 1993 г. Мн., 1994. Ч. 1; Страницы истории евреев Беларуси. Мн., 1996; Академик В.И.Пичета (1878—1947) // Новая и новейшая история. 1996. № 5; Евреи: [По страницам истории]. Мн., 1997 (з С.М.Асіноўскім); Мітрафан Доўнар-Запольскі — даследнік сацыяльна-эканамічнага развіцця феадальнае Беларусі // Спадчына. 1997. № 4; Тысячагоддзе нашай гісторыі // Полымя. 2000. № 8; Роль евреев в социально-экономическом развитии средневекового города на территории Беларуси // Беларускі горад у прасторы і часе: 500 гадоў Полацкай «магдэбургіі». Наваполацк; Мн., 2001; Восстание под руководством Тадеуша Костюшко и евреи Великого княжества Литовского // Гісторыя: праблемы выкладання. 2002. № 4; История Беларуси XVIII—XX вв.: Учебно-методическое пособие. Мн., 2003; По достоверным источникам: Евреи в истории городов Беларуси. Мн., 2003.

**Іпаліт**, С т а р а ц, разьбяр па дрэве 17 ст. Манах з Оршы. Працаваў у палаце разьбярных і сталярскіх спраў Маскоўскага Крамля. З вучнямі Яфімам Анціп'евым, Данілам Грыгор'евым і Ларкам Юр'евым рэзаў і залаціў стаўпы і гербы царскіх карэт, іканастасы, рызніцы, шафы, куфры, ракі для мошчаў і інш. У 1679 стварыў рэльефнае распяцце для Галгофы ў царкве Уваскрэсення Славушчага і рысункі кафляных упрыгожанняў купалоў Верхняспаскага сабора ў Маскоўскім Крамлі.

**Іпацьеўскі летапіс**, летапісны звод, складзены ў канцы 13 ст. ў паўднёвай Русі. Збярогся ў Іпацьеўскім (знойдзены ў 18 ст. ў Іпацьеўскім манастыры каля Кастрамы), Хлебнікаўскім, Ермалаеўскім і інш. спісах. Аб'яднаў 3 ранейшыя летапісныя творы: «Аповесць мінулых гадоў» (звесткі да 1117 уключна), Кіеўскі летапіс (1118—99) і *Галіцка-Валынскі летапіс* (1201—92). Прысвечаны пераважна паліт. гісторыі ўсх. славян, якая пададзена з патрыятычных пазіцый. Вылучаецца багаццем зместу, гіст. дакладнасцю, дасканаласцю выкладання. Важная крыніца па гісторыі Полацкага, Тураўскага, Кіеўскага, Галіцка-Валынскага княстваў, ВКЛ. Паслужыў літаратурным узорам і адной з крыніц *«Хронікі Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага»* і *Хронікі Быхаўца*. Адзіны помнік, у якім, паводле меркаванняў некат. вучоных, зберагліся ўрыўкі згубленага Полацкага летапісу. Многія апавяданні і аповесці І.л. — прыклад лепшых узораў усх.-слав. гіст. прозы ранняга перыяду. Апублікаваны ў «Поўным зборы рускіх летапісаў» (т. 2, 1843; 1908, 1923, 1962, 1998).

*Літ.*: Ш а х м а т о в А.А. Обозрение русских летописных сводов XIV—XVI вв. М.; Л., 1938; Л и х а ч е в Д.С. Русские летописи и их культурно-историческое значение. М.; Л., 1947; Е р е м и н И.П. Литература древней Руси. М.; Л., 1966.

*Вячаслаў Чамярыцкі.*

**ірмалой**, е р м а л о й, і р м а л о г, і р м а л а г і ё н, і р м а л о г і й (ад грэч. heirmys счапленне, сувязь), кодэкс ірмасаў (песень) праваслаўнага набажэнства на ўвесь царкоўны год. Складзены ў Візантыі ў 10 ст. Існуе ў 2 разнавіднасцях: поўны тэкставы і пеўчы. Бел. пеўчыя ноталінейныя І. — помнікі правасл. і уніяцкай музычнай культуры 15—18 ст., упамінаюцца з 15 ст. Найб. ранні — Супрасльскі 1598—1601, складзены Багданам Анісімовічам, на ноты пакладзены манаграмістам І.Т. Захавалася некалькі дзесяткаў бел. аднагалосых І. 16—18 ст. — магілёўскіх, віцебскіх, куцеінскіх, віленскіх, жыровіцкіх, менскіх, слуцкіх, пінскіх і інш. У адрозненне ад рускіх (змяшчаюць толькі ірмасы) у бел. і ўкр. пераважаюць святочныя песнапенні ўсяго царкоўнага гадавога кола — з Актоіха, Святаў, Абіхода, Трыёдзей, Стыхірараў і г.д. І. былі настольнай кнігай беларусаў, падручнікам нотнага пісьмен-



**Ірмалой** з Цаперскага уніяцкага манастыра. 1761 (перамалёўка пач. 20 ст.).



ства. Маюць значны аб'ём, тыповыя палеаграфічныя прыкметы. Напісаны царкоўнаславянскай мовай з дыялектнымі бел. моўнымі асаблівасцямі. Натацыя квадратная лінейная, ключы вакальныя. Большасць бел. І. ствараласяу манастырах, на тэрыторыі Беларусі — Буйніцкім, Супрасльскім, Жыровіцкім, Віленскім, Слуцкім, Віцебскім і інш. Перапісваліся ў Белым Ковелі, Давыд-Гарадку, Пінску, Клінецкай «акадэміі». Сярод іх ёсць радавыя, сціплыя, прызначаныя для практычных мэт, і святочныя (І. іераманаха Тарасія, складзены да 1643). Аўтарыскладальнікі бел. І. — пісцы, мастакі, пеўчыя практыкі (Аўрамій, Гаўрыла Аранясовіч, Кірыла Ілінскі, Антоній Кішыц, Цімафей Куліковіч, Багдан Анісімовіч, Пархомій Пацэнка, Фёдар Семіяновіч, Антоній Тараневіч, іераманах Тарасій, Феафіл Цераховіч, «І.Т.», «Ш.П.», дзяк Карніловіч, Ян Леднік, Ян Рапалеўскі).

Музычная стылістыка бел. І. склалася пад уплывам зах.-еўрап. культуры з апорай на ўсх.-слав. народнапесенную творчасць і кантавую культуру бел.-укр. традыцыі. Жанры бел. І. — ірмасы, стыхіры, дагматыкі, седальны, сцяпенныантыфоны, гімны, слаўленні, плачы, падобны і інш. Бел. І. змяшчаюць указанні на бел. напевы — беларускі, супрасльскі, а таксама лакальныя — віленскі, куцеінскі, мірскі, магілёўскі, слуцкі, жыровіцкі, старасіманаўскі, іверскі і інш. Побач з імі ў І. уваходзяць грэчаскі, балгарскі, сербскі, кіева-літоўскі (кіеўскі) напевы, украінскія напевы мясцовых школ. Вытокам рада для апошніх і кіеўскага з'яўляецца супрасльскі. У аснову пабудовы мелодыкі І. пакладзены напевачны прынцып развіцця, графічна-радковая форма, народнапесенныя прынцыпы мыслення, лінарная перакампаноўка мелодыі. Прыкметны ўплыў кантавай культуры ў рытміцы, секвентным мeладыйным развіцці, графічных формах. Першы друкаваны І. — Львоўскі 1700, асновай для якога быў Супрасльскі 1598—1601.

*Літ.*: Смоленский С.В. Краткое описание древнего (XII—XIII вв.) знаменного ирмолога. Казань, 1887; Вознесенский И.И. Церковное пение православной юго-западной Руси по нотнолинейным ирмологам XVII и XVIII вв. М., 1898; Касцюкавец Л.П. Беларускі рукапісны ірмалой // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: новыя даследаванні. Мн., 1989; Яе ж. Методы стилевого анализа применительно к белорусской гимнографии на примере Богородичных мирского роспева // Славянская этномузыкология: Направления. Методы. Концепции. Мн., 1996; Пікарда Г. Царкоўная музыка на Беларусі: 989—1995. Мн., 1995; Ясіновський Ю.П. Українські та білоруські нотолінійні ірмолої 16—18 століть. Львів, 1996.

*Ларыса Касцюкавец.*

**Ісайкоўскія**, Далматы-Ісайкоўскія, шляхецкі род герба «Прус I». Паходзілі ад баярына Каркушкі, які ў 15 ст. валодаў маёнткам Чыгіры ў Кіеўскім пав. Ад імя яго сына Далмата ўтворана прозвішча Далматы, ад маёнтка Ісайкі ў Кіеўскім пав. — прозвішча І. На мяжы 16—17 ст. адна галіна роду перасялілася з Украіны ў ВКЛ. Вызнавалі праваслаўе, потым каталіцтва. Найб. вядомыя:

Дзмітрый Далматавіч (?—паміж 1596 і 1599), унук Каркушкі. Валодаў Чыгірамі і Ісайкамі (прадаў іх у 1593), Ялавічамі і інш. маёнткамі ў Луцкім пав. (пасаг яго жонкі княжны Марыі Крапоткі-Ялавіцкай).

Ян Дзмітрыевіч (?—да 4.4.1628), сын Дзмітрыя Далматавіча. Падключы віленскі з 1591, пісар скарбовы прыходавы ВКЛ у 1592—1625, ключнік і драўнічы віленскі з 1598, падкаморы ашмянскі з 1612, сурагатар Віленскага ваяв. з 1616. Набыў у князя А.Пронскага маёнтак Ваўкалата ў Ашмянскім пав., у 1624 фундаваў касцёл у мяст. Дунілавічы.

Кароль Пётр (?—27.5.1640), сын Яна Дзмітрыевіча. Ашмянскі падстолі з 1624 і войскі з 1628, лоўчы ВКЛ з 1637. Валодаў Ваўкалатай.

Францішак (1599—да 31.5.1654), сын Яна Дзмітрыевіча. Канонік віленскі з 1625, сакратар караля Уладзіслава IV, пісар скарбовы прыходавы ВКЛ у 1627—40, кусташ віленскі з 1632, рэгент вял. канцылярыі ВКЛ у 1641—49, біскуп смаленскі з 1649; пробашч трабскі з 1632, гарадзенскі з 1633, троцкі, геранёнскі і віленскі з 1643. У 1634 заснаваў у в. Свіслач (цяпер Літвінкі) каля Гародні драўляны касцёл езуітаў.

Мікалай (?—паміж 28.5.1665 і 2.4.1667), сын Яна Дзмітрыевіча. Каралеўскі дваранін, стольнік упіцкі з 1634, лоўчы ВКЛ з 1640. Меў маёнткі ў Ашмянскім і Гарадзенскім пав.

Ян (?—1659), сын Мікалая. Каралеўскі дваранін, кашталян смаленскі ў 1659. Валодаў Індурай у Гарадзенскім пав., Кайранамі ў Віленскім ваяв. і інш.

*Валерый Пазднякоў.*

**Ісідор**, Сідар (?, Фесалонікі, цяпер г. Салонікі, Грэцыя—1462), праваслаўны, пазней уніяцкі царкоўны дзеяч. Архімандрыт манастыра св. Дзімітрыя ў Канстанцінопалі, пазней памочнік ілірыйскага архіепіскапа. Мітрапаліт кіеўскі і ўсяе Русі (1437—41). Пасвячоны канстанцінопальскім патрыярхам Іосіфам. 8.9.1437 з дазволу вял. князя маскоўскага Васіля II Цёмнага ўзначаліў вял. пасольства на Ферарскі сабор (Італія), дзе абмяркоўвалася пытанне уніі паміж каталіцкай і правасл. цэрквамі. У 1438 праз Ноўгарад, Пскоў, Рыгу, Любек, Лейпцыг, Ціроль прыбыў у Ферару. У сувязі з эпідэміяй халеры і фінансавымі праблемамі пасяджэнні сабора з 26.2.1439 працягваліся ў Фларэнцыі. Разам з нікейскім мітрапалітам Вісарыёнам падпісаў акт *Фларэнційскай уніі 1439*. Атрымаў ад папы Яўгена IV званне кардынала і прызначаны апостальскім легатам да «паўночных краін». На зваротным шляху ў Будзе (Венгрыя) разаслаў пастырскія пасланні пра аб'яднанне цэркваў ва ўсе падначаленыя яму епархіі Маскоўскай дзяржавы, ВКЛ, Польшчы, Лівоніі. На Вавелі (Кракаў) у гонар І. быў наладжаны ўрачысты прыём. 6 месяцаў (з жн. 1440) прабыў на землях ВКЛ, наведаў Вільню, Полацк, Тураў і інш. У час наведвання Кіева атрымаў ліст ад кіеўскага князя Аляксандра Уладзіміравіча (Алелькі) з прызнаннем недатыкальнасці мітрапаліцкіх уладанняў і судовых прэрагатыў. Гэта было амаль афіц. прызнанне ўсіх паўнамоцтваў новага мітрапаліта. Прызначыў уладзімірскага і берасцейскага епіскапа Данііла, які ў 1452 адрокся ад І. У цэлым яго пастырская дзейнасць у ВКЛ не мела поспеху, бо вял. князь літоўскі і кароль польскі Казімір, як і большасць каталіцкіх іерархаў, падтрымлівалі не папу Яўгена IV, а абранага Базельскім саборам Фелікса V. Правасл. насельніцтва ВКЛ унію таксама не прыняло. Вясной 1441 І. прыбыў у Маскву і правёў урачыстую літургію ва Успенскім саборы, пасля чаго была зачытана пастанова аб уніі. Вялікі князь Васіль II абвясціў І. ератыкам і «фальшывым пастырам», а правасл. епіскапы і баярская рада прызналі акты Фларэнційскага сабора некананічнымі і неадпаведнымі правасл. веравызнанню. І. зняволены ў Чудавым манастыры (Масква), адкуль уцёк у Цвер, потым у Навагародак, дзе сустрэўся з вял. князем Казімірам. Пазней жыў у Рыме і Канстанцінопалі,



дзе ў 1453 пры ўзяцці горада туркамі трапіў у палон, але не быў апазнаны. Выкуплены, вярнуўся ў Рым. Рассылаў лісты да еўрап. манархаў з заклікам наладзіць крыжовы паход супраць Турцыі. У 1458 сам адрокся ад Кіеўскай мітраполіі на карысць свайго сябра *Грыгорыя* Балгарына, але хутка атрымаў ад папы Пія II сан канстанцінопальскага патрыярха (уніяцкага). Быў адукаванай асобай, прамоўцам, пісьменнікам, перапісваўся з гуманістамі, пакінуў апісанне аблогі і заваявання Канстанцінопаля туркамі, а таксама некаторыя каментарыі да Евангелля паводле Лукі.

*Літ.*: Рамм Б.Я. Папство и Русь в X—XV вв. М.; Л., 1959; Винтер Э. Папство и царизм: Пер. с нем. М., 1964; Тихомиров М. Греки из Мореи в средневековой России // Средние века: Сб. М., 1964. Вып. 25; Зноско К. Исторический очерк церковной унии, ее происхождение и характер. М., 1993.

***Георгій Галенчанка.***

**Іўе** (цяпер гар. пасёлак, цэнтр Іўеўскага р-на Гродзенскай вобл., Рэспубліка Беларусь), мястэчка ў Ашмянскім пав. Віленскага ваяв., на р. Іўянка. Вядома з 1-й пал. 15 ст. як велікакняжацкі двор. У 1444 перададзена вял. князем ВКЛ Казімірам маршалку земскаму Пятру Мантыгірдавічу. У 1495 тут быў заснаваны касцёл. Пасля таго як яго праўнук Ян загінуў у бітве на Вядрошы 1500, усе маёнткі адышлі да сястры Соф'і, жонкі Станіслава Кішкі. У 1520 у каралеўскі суд была пададзена скарга Яна Радзівіла на Пятра Кішку. Паводле запавету Кішка не меў права аднаасобна распараджацца Іўем, а павінен быў рабіць гэта сумесна са сваёй сястрой Ганнай (трэцяя жонка Радзівіла). Рашэнне было вынесена толькі ў 1522: Кішка захаваў за сабой І., але быў вымушаны адмовіцца ад Нясвіжа. У сярэдзіне 16 ст. ў І. меліся 4 вуліцы: Віленская, Навагародская, Крывая і Новая. Паводле інвентару 1563, у І. 123 уладальнікі дамоў, 23 чал. займаліся рамяством. Пасля адм.-тэр. рэфомы 1565—66 у складзе Ашмянскага пав. У 2-й пал. 16 ст. адзін з цэнтраў арыянства ў ВКЛ. З 1567 тут дзейнічала арыянская царква, прапаведнікам у якой быў В.Іеранімавец. У студз. 1568 адбыўся сінод. У 1585 Ян Кішка адкрыў тут арыянскую школу, рэктарам у 1585—93 быў Я.Л.*Намыслоўскі*. У 1631 Мікалай Кішка заснаваў *Іўеўскі кляштар бернардзінцаў*. Пасля смерці Януша Кішкі ў 1654, яго жонка Кацярына (з роду Друцкіх-Саколінскіх) адпісала І. Кацярыне і Карлу Глябовічам, потым сумеснае ўладанне іх дачок — Марцыбелы (у шлюбе з Марцыянам Агінскім) і Хрысціны (у шлюбе з Казімірам Янам Сапегам). Пасля смерці Марцыбелы ў 1681 уладанне Сапегі, які ў 1686 аддаў маёнтак І. за 15 тыс. талераў у залог Стафану Тызенгаўзу (у 1709 Сапега здолеў часова вярнуць І., але ў выніку судовага працэсу аддаў назад, таму што не вярнуў пазыку). У 1685 было 79 уласнікаў дамоў і сядзіб, з якіх 49 чал. валодалі ворнымі ўчасткамі. У 1742 І. атрымаў статус мястэчка. Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) у складзе Рас. імперыі.

*Літ.*: Памяць: Гіст.-дак. хроніка Іўеўскага р-на. Мн., 2002.

***Валерый Грынявецкі.***

**Іўеўскі кляштар бернардзінцаў.** Касцёл святых Пятра і Паўла пабудаваны ў мяст. *Іўе* ў канцы 15 ст. на сродкі троцкага ваяводы, маршалка ВКЛ П.Я.Мантыгірдавіча ў тэхніцы гатычнай муроўкі (дакументы на яго будаўніцтва аформіў Я.П.Мантыгірдавіч у 1499). Першапачаткова інтэр'ер недабудаванага касцёла не перакрывалі скляпенні, была выкарыстана плоская драўляная столь на бэльках. Сцены касцёла ўмацоўвалі магутныя контрфорсы. Вокны былі вял. памераў, спічастай формы. У канцы 15 ст. пры касцёле ўжо існаваў драўляны кляштар францысканцаў. У сярэдзіне—2-й пал. 16 ст. касцёл належаў арыянам, потым кальвіністам. У 1612 мсціслаўскі ваявода М.С.Кішка вярнуў храм католікам і прыбудаваў да яго паўн. фасада мураваны кляштар для бернардзінцаў. У 17—18 ст. комплекс набыў у плане складаную П-падобную форму. У 2-й пал. 18 ст. на гал. фасадзе касцёла часткова зменены франтон і надбудаваны вежы. У сярэдзіне 18 ст. над уваходам зроблены мураваныя хоры. Цяпер гэта 3-нефавая, 2-вежавая пабудова. Яе асн. аб'ём у плане амаль квадратнай формы. З У заканчваецца прэсбітэрыем і шматграннай апсідай. З паўн. боку да касцёла прымыкае капліца і сакрыстыя. Неф накрыты двухсхільным дахам, ніжэйшыя за яго прэсбітэрый і апсіда — шматсхільным. Гал. фасад падзелены карнізам на ніжнюю частку, аздобленую тонкімі пілястрамі, і 2 чацверыковыя вежы, завершаныя гранёнымі купалкамі, з фігурным атынкаваным франтонам паміж імі. У інтэр'еры цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. Касцёл уяўляе сабой сінтэз гатычнай і барочнай архітэктуры.

*Літ.*: Кушнярэвіч А.М. Готыка ў Іўі // Спадчына. 1992. № 1; Яго ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1993.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Ічас** (Yčas) Ёнас (21.7.1880, в. Шымпялішкі Біржанскага р-на, Літва—17.12.1931), літоўскі гісторык. Перад і ў час 1-й сусв. вайны настаўнік гімназій у Томску, Сяміпалацінску і Варонежы. У 1918—19 міністр асветы Літбел. З 1922 праф. Каўнаскага ун-та. Садзейнічаў умацаванню ў Літве пазіцый кальвінісцкай царквы. Аўтар манаграфіі «Біржы: Замак, горад і княства» («Biržai: Tvirtovė, miestas ir kunigaikštystė», Каўнас, 1931), артыкулаў пра Вітаўта, Грунвальдскую бітву 1410, Біржанскую гімназію, літоўцаў у Прусіі, прускага храніста С.Грунаў і інш.

**Ішкалдскі Троіцкі касцёл.** Пабудаваны ў 3-й чвэрці 15 ст. на сродкі М.Неміровіча ў мяст. Ішкалдзь (цяпер вёска ў Баранавіцкім р-не Брэсцкай вобл.) у гатычным стылі. У 2-й пал. 16 ст. ператвораны ў кальвінскі збор, каля 1640 вернуты католікам. З 1868 правасл. царква, з пач. 20 ст. — касцёл. Кампазіцыйна складаецца з асн. аб'ёму, прамавугольнага ў плане, і прэсбітэрыя, які заканчваецца шматграннай апсідай і да якога прымыкае сакрыстыя з паўн. боку. Сцены храма ўмацаваны контрфорсамі, якія першапачаткова былі шматпрыступкавай формы. Касцёл збудаваны ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Ніжняя частка



Ішкалдскі Троіцкі касцёл.



сцен упрыгожана ромбападобным арнаментам з перапаленай цэглы. Гал. дзвярны праём спічастай формы размешчаны ў цэнтры зах. фасада і акцэнтаваны характэрнай для познагатычнай архітэктуры прамавугольнай акаймоўкай. 2-і дзвярны праём паўд. фасада больш вузкі, вырашаны ў выглядзе паўцыркульнай аркі. Унутры касцёл падзелены 4 слупамі і сістэмай падпружных арак на 3 нефы, перакрытыя гатычнымі крыжовымі скляпеннямі. У роўным з асноўнай часткай прэсбітэрыі ўжыты зорчатыя нервюрныя скляпенні. Інтэр'еры храма былі ўпрыгожаны фрэскамі. Асн. аб'ём храма злучаны з прэсбітэрыем спічастай аркай. Арка нясе нагрузку ўсх. франтона і часткова скляпенняў асн. аб'ёму і прэсбітэрыя. У паўн. сцяне прэсбітэрыя ёсць дзвярны праём для праходу ў сакрыстыю. Першы яе паверх перакрыты паўцыркульным скляпеннем, другі — плоскай драўлянай столлю на бэльках. Да зах. сцяны сакрыстыі прымыкае паўцыліндрычнай формы вежачка, у якой зроблена вінтавая лесвіца, што вядзе на другі паверх і на паддашак касцёла. У сярэдзіне храма размешчаны алтары, скульптурныя выявы святых, абразы. Першапачаткова ў касцёле, відаць, былі толькі прысценныя, а не прыкалонныя алтары. Асн. дэкаратыўнае афармленне касцёла лакалізавана на гал. фасадзе, які знаходзіцца з боку мястэчка. Вось сіметрыі гэтага фасада падкрэслена акном і 3 нішамі над парталам. Адпаведна ёй на франтоне размешчаны нішы паўцыркульнай формы, якія выконваюць не толькі дэкаратыўную, але і канструкцыйную ролю. Аналагічныя нішы ўпрыгожваюць контрфорсы. Першапачаткова франтон меў прыступкавую форму, пазней яму нададзены крывалінейныя абрысы. Усх. франтон не мае дэкаратыўных ніш і яго цалкам закрывае дах алтарнай часткі. Асн. аб'ём храма мае 2-схільны дах. Першапачаткова быў накрыты паўцыркульнай непаліванай і з зялёнай палівай дахоўкай, якой шмат выяўлена ў час археал. даследавання прылеглага да храма культурнага слоя.

*Літ.*: Я р а ш э в і ч А. Готыка ў Ішкалдзі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1985. № 3; К у ш н я р э в і ч А.М. Ішкалдскі касцёл // Мастацтва Беларусі. 1991. № 4; Я г о ж. Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст. Мн., 1983.

***Аляксандр Кушнярэвіч.***

**Іяўлевіч** Ігнацій, гл. *Ігнацій.*

**Іяўлевіч** Фама, гл. *Яўлевіч* Т.





**кавалерыя** (франц. cavalerie ад лац. caballus конь), конніца, род сухапутных войск, у якім для перамяшчэння і дзеянняў у баі выкарыстоўваўся верхавы конь. У часы ўтварэння ВКЛ (13—14 ст.) К. паступова ператварылася ў асн. род войска. Яе ўзбраенне і арганізацыя на працягу 14 ст. зазналі моцны зах. ўплыў. У канцы стагоддзя ў К. вылучыліся капійнікі, асн. зброяй якіх было *кап'ё*, і конныя стральцы з *арбалета* (стральцы-арбалетчыкі). У канцы 14—пач. 15 ст. ў сувязі са з'яўленнем у ВКЛ служылых татараў вял. пашырэнне атрымалі коннікі, узброеныя «па-татарску» — *лукам*. Акрамя наступальнай зброі вершнікі мелі *засцерагальнае ўзбраенне*: кольчатыя панцыры, *даспехі* і *шлемы*, а капійнікі таксама *шчыты*. У канцы 15—пач. 16 ст. ва ўзбраенні К. адбыліся змены, што прывялі да ўтварэння значнай колькасці яе відаў. Са з'яўленнем суцэльнакаванага даспеха капійнікі падзяляліся на «даспешных» і «шчытовых». Апошнія, атрымаўшы на пач. 16 ст. назву *гусараў*, пакрысе выцеснілі «даспешных» і занялі месца цяжкай К. Асн. наступальнай зброяй гусараў было масіўнае доўгае кап'ё — «дрэва». Коп'і ўжывалі таксама коннікі, узброеныя «па-кашубску» (назва паходзіць ад вершнікаў-кашубаў, Польшча), аднак гэта былі больш кароткія рагаціны ці вошчапы, што разам з адсутнасцю шчыта і неабавязковасцю засцерагальнага ўзбраення рабіла падобных кавалерыстаў лёгкімі і мабільнымі. У гэты час арбалет як гал. зброя стральцоў выцясняецца ручніцамі і аркебузамі. З сярэдзіны 16 ст. кавалерысты, забяспечаныя ручной агняпальнай зброяй, называліся ўзброенымі «па-нямецку», «па-бруншвіску» або «па-рэйтарску». Аснову стралковай К. ў 16 ст. складалі вершнікі, экіпіраваныя «па-татарску» або, як часцей гаварылі, «па-казацку». Уніфікацыя ва ўзбраенні вытрымлівалася не заўсёды, што надавала К. яшчэ большую тыпалагічную стракатасць. Асабліва гэта было характэрна для *паспалітага рушэння*, якое складалася з кавалерыйскіх харугваў, што выстаўляліся ад кожнага павета; мабілізацыйныя магчымасці паветаў абумоўлівалі колькасны склад харугвы. Узбраенне апалчэнца залежала ад яго заможнасці. Найлепш экіпіраванымі былі почaты (атрады) буйных землеўладальнікаў.

З 15 ст. ў ВКЛ усё часцей выкарыстоўвалі наёмнікаў, напачатку іншаземнага паходжання, а з 16 ст. і ўраджэнцаў дзяржавы. Наёмныя вершнікі арганізоўваліся ў роты, на чале якіх стаялі ротмістры. Роты складаліся з початаў, якія ўзначальвалі таварышы. З цягам часу значэнне наёмнай К. расло, яе ж у першую чаргу закранулі рэформы канца 16—сярэдзіны 17 ст. У выніку рэформаў было вызначана пэўнае ўзбраенне для кожнага віду К. — цяжкай, сярэдняй і лёгкай. Цяжкая К. (гусары, рэйтары і аркебузеры) мела ахоўнае ўзбраенне ў выглядзе паўдаспеха або кірасы і шлема. Асн. наступальнай зброяй гусараў было кап'ё-дрэва, рэйтараў і аркебузераў — ручная агняпальная зброя. Сярэдняя К. (панцырныя, або *пяцігорцы*) мела круглыя шчыты і кольчатыя панцыры ў камплекце з плыткім міскападобным шлемам місюркай. Тыповым наступальным узбраеннем панцырных былі шабля і пісталет або ручніца, часам рагаціна і лук. Лёгкая К. (тыпу *лісоўчыкаў* і татараў) была ўзброена, як і сярэдняя, але не мела засцерагальнага ўзбраення. Падобная структура К. захавалася ў цэлым у ВКЛ да 1-га падзелу Рэчы Паспалітай, хоць у 18 ст. вершнікі ўжо не карысталіся ахоўным даспехам. Адразу пасля 1772 адбылася рэарганізацыя гусарскіх і панцырных харугваў у брыгады нацыянальнай К. («К. нарадова»), а лёгкіх харугваў — у палкі пярэдняй стражы.

*Літ.*: Górski K. Historia jazdy polskiej. 2 wyd. Kraków, 1895; Русская историческая библиотека. Т. 33. Пг., 1915; Żygulski Z. Broń w dawnej Polsce na tle uzbrojenia Europy i Bliskiego Wschodu. 2 wyd. Warszawa, 1982; Грыгор'еў М. Войска ВКЛ: Ад Сасаў да Касцюшкі, 1765—1794. Мн., 1994; Сагановіч Г.М. Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. Мн., 1994.

***Юрась Бохан.***

**Кавалёў** Сяргей Валер'евіч (н. 20.6.1961, г. Магілёў), беларускі пісьменнік, літаратуразнавец. Д-р філал. навук (2002). Скончыў БДУ (1985), дзе з 1988 выкладае. Даследуе шматмоўную л-ру ВКЛ, праблемы сучаснай бел. паэзіі. Аўтар п'ес, створаных на аснове літ. твораў і фальклорнага матэрыялу, твораў для дзяцей.

*Тв.*: Шляхамі Радзівілаў // Полымя. 1992. № 3; Чалавек у люстры смерці: Паэтычная спадчына Цыпрыяна Базыліка (каля 1535—пасля 1591) // Там жа. 1999. № 9; Гамер Вялікага Княства Літоўскага // Там жа. 2000. № 5; Героіка-эпічная паэзія Беларусі і Літвы канца XVI ст. Мн., 1993;



Няздзейсненая унія // Unia brzeska: Geneza, dzieje i konsekwencje w kulturze narodów słowiańskich. Kraków, 1994; Першы ўзор палітычнай паэзіі // Спадчына. 1998. № 3; Пратэй, брат Сатыра // Там жа. 1999. № 2; Ян Пратасовіч — паэт, філосаф, энцыклапедыст // Там жа. 1999. № 5/6; Пад знакам Каліёпы і Кліа: Паэма А.Рымшы «Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў… князя Крыштафа Радзівіла» // Там жа. 2003. № 1; Дыялог аўтара з героем // Literatura i komunikacja: Od listu do powieści autobiograficznej. Lublin, 1998; На хвалі Рэфармацыі: Польскамоўная паэзія ў берасцейскіх і нясвіжскіх выданнях 50—60-х гг. XVI ст. // Роднае слова. 1999. № 11; Беларусь і Літва ў паэтычнай спадчыне Мацея Стрыйкоўскага // Dziedzictwo przeszłości związków językowych, literackich i kulturowych polsko-bałto-wschodniosłowiańskich. Białystok, 2000. T. 4; Станіслаў Кулакоўскі: паміж тэалогіяй і паэзіяй // Працы кафедры гісторыі беларускае літаратуры Белдзяржуніверсітэта. Мн., 2001. Вып. 1; Сціплы служка муз: (Творчасць Яна Казаковіча Літвіна) // Там жа. Мн., 2002. Вып. 2; Паэма Станіслава Лаўрэнцыя «Лямант няшчаснага Рыгора Осціка» (1580) // Там жа. Мн., 2002. Вып. 3.; Лацінамоўная паэзія Беларусі 50—70-х гг. XVI ст. // Там жа. Мн., 2003. Вып. 4; Школьны тэатр і драматургія Беларусі позняга Рэнесансу // Там жа. Мн., 2004. Вып. 5; Станаўленне польскамоўнай паэзіі ў полілінгвістычнай літаратуры Беларусі эпохі Рэнесансу. Мн., 2002; Шматмоўная літаратура Вялікага Княства Літоўскага як агульная спадчына народаў Сярэдне-Усходняй Еўропы: (на прыкладзе верша А.Валяна «Да Палякаў і да Літвы» // Roczniki humanistyczne. 2002. Z. 7.

**Кавальчык** (Kowalczyk) Ежы (н. 3.8.1930, г. Горай Люблінскага ваяв., Польшча), польскі гісторык мастацтва. Д-р габілітаваны (1971), праф. звычайны (1992). Вучыўся ў Люблінскім каталіцкім (1950—53) і Варшаўскім (1953—55) ун-тах. У 1955—78 працаваў у Ін-це гісторыі мастацтва Варшаўскага ун-та. З 1978 у Ін-це мастацтва Польскай АН, кіраўнік аддзела гісторыі мастацтва новага часу. У 1988—96 гал. рэдактар час. «Biuletyn historii sztuki» («Бюлетэнь гісторыі мастацтва»). Выкладаў ва ун-тах Кракава, Падуі, Вільнюса, Кіева. Даследуе мастацкую культуру Польшчы эпохі Рэнесансу і барока, архітэктуру барока Польшчы і ВКЛ, польска-італьянскія мастацкія сувязі 16—18 ст., праблемы аховы і рэстаўрацыі помнікаў культуры.

*Тв.*: Latynizacja i okcydentalizacja architektury grekokatolickiej w XVIII wieku // Biuletyn historii sztuki. 1980. № 3/4; Późnobarokowa architektura Wilna i jej europejskie związki // Там жа. 1993. № 2—3; Główne problemy badań nad architekturą późnobarokową w Koronie i na Litwie // Kwartalnik architektury i urbanistyki. 1995. Z. 3—4; Guarino Guarini a późnobarokowa architektura w Polsce i na Litwie // Там жа. 1997. Z. 3; Pałace i dwory późnobarokowe w mieście sejmowym Grodnie // Sztuka ziem wschodnich Rzeczypospolitej XVI—XVIII w. Lublin, 2000; Znaczenie wzorów Giovanniego Battisty Montano dla architektury barokowej w Polsce i na Litwie // Biuletyn historii sztuki. 2000. № 1—2; Дойлідская школа ў Вялікім Княстве Літоўскім (XVI—XVIII стст.) // Спадчына. 2001. № 5—6; Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай: Старажытны алтар. Перспектыўны алтар і яго італьянскае паходжанне. Будслаў, 2001; Barocke Sakralbauten in Wilna // Barocke Sakralarchitektur in Wilna. Marburg, 2002.

*Літ.*: Między Padwą a Zamościem: Studia z historii sztuki i kultury nowożytnej ofiarowane Profesorowi Jerzemu Kowalczykowi. Warszawa, 1993 (змешчана бібліяграфія прац К.).

**Кавецка-Грычова** (Kawecka-Gryczowa) Алодзія (11.8.1903, Варшава—16.6.1990), польскі бібліёграф, бібліятэказнавец. Праф. (1954). Скончыла Ягелонскі ун-т. У 1928—74 працавала ў Нац. б-цы ў Варшаве, б-цы Ін-та літаратуразнаўства Польскай АН. Асн. працы па гісторыі польскага кнігадрукавання 15—16 ст. Гал. рэдактар выданняў «Польскае друкарства 16 ст.», «Энцыклапедыя навукі пра кнігу» (1971). Даследавала пратэстанцкія канцыяналы Літвы і Беларусі. Адна са складальнікаў шматтомнай працы «Друкары старой Польшчы», у т. 5 якой (1959) змешчаны звесткі пра друкароў ВКЛ. Аўтар артыкулаў пра друкароў, што працавалі на Беларусі: М.Кавячынскага, Я.Карцана, П.Б.Кміту, Д.Ланчыцкага, С.Мурмеліуса.

*Тв.*: Kancjonały protestanckie na Litwie w w. XVI // Reformacja w Polsce. Warszawa, 1926. R. 4; Z dziejów polskiej książki w okresie Renesansu. Wrocław, 1975; Biblioteka ostatniego Jagiełłona: Pomnik kultury Renesansowej. Wrocław etc., 1988.
*Літ.*: Z badań nad dawną książką: Studia ofiarowane prof. Alodii Kaweckiej-Gryczowej w 85-lecie urodzin. Warszawa, 1991 (змешчана бібліяграфія прац К.-Г.).

***Таццяна Рошчына.***

**Кавячынскі** Мацей (канец 1520-х г.—1-я пал. 1572), беларускі кнігавыдавец, перакладчык, рэфармацыйны дзеяч. Са шляхты. У 1540-я г. вучыўся ў Вітэнбергскім ун-це, з канца 1550-х г. жыў на Беларусі. Нясвіжскі намеснік («справца всех замков и дворов») М.Радзівіла Чорнага. Заснаваў порт на р. Узда, паперню ў Нясвіжы. Удзельнічаў у кальвініцкім, пазней у арыянскім руху на Беларусі, у Літве і Польшчы. У 1561—62 разам з С.*Будным* і Л.*Крышкоўскім* заснаваў *Нясвіжскую друкарню*, якая ў 1562 надрукавала першыя на тэр. сучаснай Беларусі выданні на бел. мове — «Катэхізіс» і «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» Буднага. Аўтар прадмоў да нясвіжскіх выданняў. У пачатку сваёй кнігавыдавецкай дзейнасці, пад значным уплывам Буднага, намагаўся распаўсюджваць выданні сярод «рускага» (бел. і ўкр.) насельніцтва. Паводле рас. бібліёграфаў (В.Сопікаў, І.Каратаеў), К. пры дапамозе земскага падскарбія ВКЛ А.Валовіча перавёз з Вільні ў Нясвіж кірыліцкія шрыфты Ф.Скарыны. Тыпаметрычны аналіз, нягледзячы на сапраўднае падабенства шрыфтоў і ініцыялаў, не пацвярджае гэтай гіпотэзы. Пасля смерці К. маёмасць перайшла да яго братоў, друкарню купіў Я.Кішка.

***Георгій Галенчанка.***

**кагал** (старажытнаяўр. кахал — абшчына, сход), у шырокім сэнсе — яўрэйская абшчына, у больш ужывальным — форма яе самакіравання (праўленне абшчыны) у Польшчы і ВКЛ у 16—18 ст., у Рас. імперыі ў 1772—1844. Быў пасрэднікам паміж уладамі і яўр. насельніцтвам, якое як іншавернае было адчужана ад мясц. хрысціян. Адказваў за збор падаткаў з усёй абшчыны і выконваў адм. функцыі, чым дапамагаў дзярж. органам кіравання. Існаванне К. адпавядала таксама інтарэсам гар. магістратаў, бо К. назіраў за выкананнем яўрэямі дагавораў, заключаных з магістратам. Прававы статус і ўнутраны лад кагальнай арганізацыі нагадваў *магдэбургскае права*, таму самі яўрэі былі зацікаўлены ва ўтварэнні К. Першыя К. на Беларусі ўзніклі ў гарадах, дзе ўжо існавалі магдэбургіі. Выступаў як абшчынны ін-т, які прымаў пастановы, абавязковыя для ўсіх яўр. жыхароў дадзенага населенага пункта. Маючы абавязак па юрыд. ахове рознабаковых інтарэсаў усіх яўрэяў, К. не заўсёды выконваў сваю місію. З пач. 17 ст. амаль ва ўсіх кагальных статутах былі ўведзены параграфы, якія абмяжоўвалі праваздольнасць бедных рамеснікаў і дробных гандляроў на карысць багатых арандатараў і купцоў. Т.ч. кіраўніцтва К. набыло алігархічны характар. К. вяршыў суд паміж яўрэямі, наглядаў за цэнамі і гандлем, здзяйсняў дабрачынныя функцыі — забяспечваў



рэліг. кнігамі, клапаціўся пра хворых, сачыў за санітарным станам вуліц, ажыццяўляў догляд за сінагогамі і ўтрыманнем могілак, наймаў фельчараў і павітух і г.д. Пастаянным клопатам К. было забеспячэнне паспяховай эканам. дзейнасці членаў абшчыны, каб яны маглі выконваць грашовыя абавязацельствы перад уладамі і самой абшчынай. Колькасць членаў К. была звычайна прапарцыянальная колькасці членаў абшчыны, але не перавышала 35—40 чал. На чале К. стаялі 3—5 (часцей 4) выбарных старшын (р о ш ы м), якія разам з 3 ганаровымі членамі (товім) складалі правамоцную калегію К. і наз. «сямю ганаровымі членамі горада». Старшыны давалі прысягу на вернасць каралю. Ніжэй іх па службовых пасадах былі д а я н ы (суддзі) і г а б а і (апекуны і старасты рэліг. і выхаваўчых устаноў). Рошым па чарзе на працягу месяца займалі пасаду п а р н а с а (кіраўніка і скарбніка К.). Выканаўчую ўладу ў К. таксама ажыццяўляў ш к о л ь н і к (прыстаў). Духоўным кіраўніком абшчыны быў рабін, які прызначаўся часцей за ўсё на шасцігадовы тэрмін, а ў выпадку працягу дагавору — яшчэ на 4 гады. Ён падпісваў рашэнні К., кіраваў выбарамі, быў старшынёй на яўр. судзе, вёў рэгістрацыю актаў грамадзянскага стану, накладваў адлучэнне ад сінагогі (херэм), сачыў за школьным навучаннем. Звычайна К. буйнога горада (акруговы, галоўны К.) падпарадкоўваў сабе навакольныя дробныя К. мястэчак — п р ы к а г а л к і. Прадстаўнік К. і рабіны ў сваю чаргу стваралі вышэйшыя органы яўр. самакіравання ў ВКЛ і Рэчы Паспалітай — абласныя і цэнтральныя в а а д ы. Пасля далучэння ВКЛ да Рас. імперыі (1772—95) царскі ўрад захаваў ін-т К., кіруючыся перш за ўсё фіскальнымі мэтамі. К. былі падпарадкаваны магістратам гарадоў. Указам 1776 паўнамоцтвы К. абмяжоўваліся: яўрэяў сталі ўносіць у агульнагар. кнігі жыхароў, права судовага разбору паміж яўрэямі было перададзена казённым судам. У кампетэнцыі К. засталіся рэліг. пытанні, збор падаткаў пры захаванні кругавой парукі, а таксама выдача яўрэям пашпартоў. Падрабязна прававое становішча К. было вызначана Палажэннем аб яўрэях (1804). З увядзеннем «натуральнай воінскай павіннасці для яўрэяў» (1827) на К. была ўскладзена адказнасць за своечасовую пастаўку рэкрутаў. Палажэннем 1835 у *мяжы яўрэйскай аселасці* ў асн. аднаўлена кагальная арг-цыя Рэчы Паспалітай, і кожны яўрэй (акрамя яўрэяў-земляробаў) павінен быў прыпісацца да гар. яўр. грамадства. К. выбіраліся на 3 гады з зацвярджэннем губ. праўленнем. У 19 ст. сярод членаў К. ўсё часцей здараліся злоўжыванні (звычайна пры ўнутр. размеркаванні падаткаў), якія павялічыліся з пастаўкай рэкрутаў. Указам 1844 «Аб падпарадкаванні яўрэяў у гарадах і паветах агульнаму ўпраўленню са знішчэннем кагалаў» К. былі скасаваны. Іх адм. функцыі перададзены паліцэйскім установам, а гасп. і агульнападатковыя — гар. думам і ратушам. Фактычна збор падаткаў і пастаўка рэкрутаў заставаліся абавязкам яўр. абшчын да Лют. рэвалюцыі 1917.

*Літ.*: Д у б н о в С.М. История евреев в России. Т. 1. М., 1914; Очерк истории еврейского народа. Т. 1—2. Иерусалим, 1990; Р о с м а н М. Страницы истории и культуры евреев Восточной Европы. Ч. 3. Тель-Авив, 1995; Г е с с е н Ю. История еврейского народа в России. М.; Иерусалим, 1993.

***Эмануіл Іофе, Якаў Басін.***

**Кагнавіцкі** Казімір (10.2.1746; в. Ланчанава каля Коўна—22.3.1825), гісторык, педагог. З 1764 езуіт. Вучыўся ў езуіцкіх установах у Коўне, Вільні, в. Пашаўша (Жамойць), у 1767—70 слухаў курс філасофіі ў Віленскай акадэміі. У 1770—72 выкладаў рыторыку, паэтыку і матэматыку ў Мерацкім калегіуме, склаў яго хроніку. З 1772 вывучаў тэалогію ў Гарадзенскім калегіуме, пасля скасавання ў 1773 ордэна езуітаў перайшоў у Віленскую акадэмію, дзе атрымаў ступень доктара філасофіі і вольных навук. З 1774 святар. Да 1781 выкладаў у Гарадзенскай ваяводскай (потым акруговай) школе, адчыненай Адукацыйнай камісіяй замест езуіцкага калегіума. Зрабіў падарожжа ў Рым, якое апісаў у кнізе «Рымская дарога» (1783). Дзякуючы падтрымцы А.М.Сапегі, заняў пасаду трыбунальскага прапаведніка ў Гародні. З 1789 пры двары Сапегаў у Ружанах, дзе пачаў пісаць гісторыю іх роду на падставе фамільнага архіва. Гісторыя мела форму асобных біяграфій, усяго склаў 6 тамоў (т. 1—3 выдадзены ў 1790—92). Т. 1 прысвечаны Льву Сапегу (перавыд. ў 1805, 1830, 1837, 1855), т. 2 — Яну Пятру Сапегу, т. 3 — Казіміру Льву Сапегу. У працы змешчана шмат гіст. крыніц, у т.л. лісты манархаў, «Дыярушы выправы на Маскоўскую вайну Яна Пятра Сапегі 1608—1611 гадоў». У 1802—07 узначальваў рух па пераносе мошчаў блажэннага А.Баболі ў Полацк. З 1805 зноў у ордэне езуітаў. У 1805—09 нам. рэктара калегіума ў Дынабургу, потым у Полацку, з 1811 узначальваў місійны дом у Хальчы. У 1814 адышоў ад спраў, жыў у Магілёве, дарадца рэктара і духоўны апякун калегіі. Пасля выгнання езуітаў з Рас. імперыі (1820) выехаў у Ферару (Італія), потым жыў у Галіччыне.

*Тв.*: Życia Sapiehów. T. 1—3. Wilno, 1790—93.

***Валерый Пазднякоў.***

**кадзь**, мера аб'ёму ў ВКЛ у 15—18 ст. Выкарыстоўвалася для вымярэння збожжа, мёду, салёнай рыбы і інш. У розных мясцовасцях прыраўноўвалася да 3—10 пудоў, 3—4 ушатаў, 2—4 мядніц і г.д.

**кадэнцыя** (лац. cadentia ад cado падаю, прыпадаю, супадаю), перыяд, на працягу якога праходзілі пасяджэнні *Трыбунала Вялікага княства Літоўскага*, сесія Трыбунала. Першапачаткова К. праходзілі ў Вільні і Троках для Віленскай рэпартыцыі (Віленскае і Троцкае ваяв., Жамойць) і ў Навагародку і Менску для Рускай рэпартыцыі (астатняя тэр. ВКЛ). Сойм 1588 пастанавіў, што К. для Віленскай рэпартыцыі праходзяць штогод толькі ў Вільні (віленская К.), а для Рускай — пачаргова праз год у Навагародку і Менску (рускія К.). Віленская К. пачыналася ад Фаміной тыдня (2-і тыдзень пасля Вялікадня), руская — на 4 тыдні пазней, працягваліся па 20 тыдняў. Сойм 1775 прызначыў для К. Рускай рэпартыцыі Гародню і новыя тэрміны К.: віленскай — з 15 ліст. да 15 крас., гарадзенскай — з 1 мая да 30 вер. К. называліся і сесіі некат. інш. судоў.

***Валерый Пазднякоў.***



## змест

Даведачнае выданне

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

Энцыклапедыя ў 2 тамах

Том 1

**Рэдактары:**
Ю.Я. Гаева, В.В. Грынявецкі, В.С. Пазднякоў, М.І. Рэменіца

**Навукова-літаратурны кантроль:**
Ю.В. Бажэнаў, М.В. Пятроўская, Е.П. Фешчанка, І.П. Хаўратовіч

**Мастак** З.Э. Герасімовіч

**Мастацкі рэдактар** І.В. Каранкевіч

**Графічная падрыхтоўка ілюстрацый:**
З.Э. Герасімовіч, І.В. Каранкевіч

**Тэхнічны рэдактар** Н.М. Шэвель

**Картографы:** В.Ф. Надзененка, Г.Р. Шыкунова

**Камп'ютэрная вёрстка**
З.Э. Герасімовіча, І.М. Кузьмянковай, М.Э. Малярэвіч

**Камп'ютэрны набор:**
Р.У. Дзявочка, Н.М. Зубкевіч, Н.У. Мітраховіч, Т.М. Саленік, Н.А. Стасевіч, С.М. Хаўстовіч

**Карэктары:**
Л.А. Варабей, І.І. Касабуцкая, В.А.Кульбіцкая, В.М. Лапцева, В.М. Чудакова



Падпісана да друку 01.08.2007. Фармат 84×108 1/16. Папера афсетная. Гарнітура OfficinaSans. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 72,24. Ум. фарб.-адб. 288,96. Ул.-выд. арк. 102,2. Тыраж 3000 экз. Заказ 92.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0131958 ад 25.05.2007 г.
Рэспубліка Беларусь. 220012, Мінск, завулак Калініна, 16.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка на Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве
«Мінская фабрыка каляровага друку».
Рэспубліка Беларусь. 220024, Мінск, Каржанеўскага, 20.

978-985-11-0393-1



